BELARUSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

VALENTYNA PASHKEVICH

# ENGLISH-BELARUSIAN DICTIONARY

About 30,000 entries

Edited by Siarhiej SHUPA

**Minsk**
**Kolas Publisher**
**2006**

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

ВАЛЕНТЫНА ПАШКЕВІЧ

# АНГЕЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

Каля 30 000 словаў

Пад рэдакцыяй Сяргея ШУПЫ

**Менск**
**Выдавец Зьміцер Колас**
**2006**

# FOREWORD

The availability of bilingual dictionaries testifies, as nothing else does, to the state of the language and culture of a country. It witnesses as well to the potential of the country to connect to the rest of the world.

Unfortunately, during the fifteen years of its independence as the Republic of Belarus, for various reasons, translation lexicography did not extend beyond small dictionaries for schools. As in previous years, the Belarusian-Russian and Russian-Belarusian dictionaries, and the recently published Polish-Belarusian dictionary, have been fortunate exceptions. The world's most widely used languages, however – such as English, French, or Spanish – have not been part of the Belarusian lexicograpahic process.

This dictionary is the first English-Belarusian reference work of such scope. It contains about 30,000 entries.

The dictionary is a result of many years of labor by Valentyna Pashkevich and certain members of the Belarusian Institute of Arts and Sciences in the United States and Canada.

The need for a substantial English-Belarusian dictionary is obvious – its absence hinders significantly the use of Belarusian language in international contacts, in teaching English, and in translating. Until now, Russian lexicographic aids had to be used in Belarus for such purposes. In translating, for example, from English into Belarusian, the use of Russian language as an intermediary was unavoidable. The goal of this dictionary is to free the Belarusian user from the need to use such an intermediary.

Unlike the Russian lexicographic tradition, familiar to the Belarusian user, this dictionary uses the American variant of English, as more widely accepted in the world. This relates to the spelling, pronunciation and semantics of words and phraseology. Spelling in the Belarusian section follows the rules of "tarashkevitsa" as normativized by The Belarusian Classical Spelling (Vilnius-Miensk, 2005).

The Editorial Board is aware of the pioneering nature of their work – to plow the first furrow on the uncultivated lexicographic field with limited resources was not easy. In such an effort, flaws may result. The Board will be grateful for critical response sent to:

Belarusian Institute of Arts and Sciences
164-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432
USA

# АД РЭДАКЦЫІ

Наяўнасьць перакладных дзьвюхмоўных слоўнікаў, бадай як нішто іншае сьведчыць пра стан нацыянальнай мовы і культуры ва ўмовах пашырэньня міжнародных кантактаў краіны. На жаль, з шэрагу розных прычынаў за пятнаццаць гадоў незалежнага існаваньня Рэспублікі Беларусь перакладная лексыкаграфія ў краіне не ўзьнялася вышэй за ўзровень маленькіх слоўнічкаў для школьнага ўжытку. Шчасьлівы вынятак складаюць, як і раней, беларуска-расейскія і расейска-беларускія слоўнікі, а таксама выдадзены нядаўна польска-беларускі слоўнік, аднак найбольш пашыраныя мовы сьвету – як прыкладам ангельская, француская, гішпанская – дагэтуль заставаліся не ахопленыя беларускім лексыкаграфічным працэсам.

Гэты слоўнік – першы ангельска-беларускі слоўнік такога памеру. У ім зьмешчана каля 30 тысячаў слоўнікавых артыкулаў.

Слоўнік стаўся вынікам шматгадовай працы Валентыны Пашкевіч ды групы супрацоўнікаў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНіМ) у ЗША і Канадзе.

Патрэба ў агульным ангельска-беларускім слоўніку большага памеру відавочная – адсутнасьць такога слоўніка значна абмяжоўвае ўжываньне беларускай мовы ў міжнародных кантактах, у працэсе навучаньня ангельскай мове, пры перакладах. Дагэтуль у Беларусі дзеля гэтых мэтаў даводзілася карыстацца расейскімі лексыкаграфічнымі дапаможінкамі, і пры перакладзе, напрыклад, з ангельскай мовы на беларускую, расейская мова непазьбежна выступала як мова-пасярэдніца. Мэта гэтага слоўніка – дапамагчы беларускаму карыстальніку пазбавіцца гэткага пасярэдніцтва.

У адрозьненьне ад звыклай для беларускага карыстальніка расейскай слоўнікавай традыцыі, у ангельскай частцы слоўніка ўжыты не брытанскі, а амэрыканскі варыянт ангельскай мовы як больш пашыраны ў сьвеце. Гэта датычыць асаблівасьцяў правапісу, вымаўленьня, сэмантыкі словаў і фразэалёгіі. У беларускай частцы ўжываецца "тарашкевіца" ў сучаснай нармалізаванай форме, замацаванай у зборы правілаў "Беларускі клясычны правапіс" (Вільня-Менск, 2005).

Рэдкалегія ўсьведамляла наватарскі характар сваёй працы – пракладаць абмежаванымі сіламі першыя баразны на няўробленай лексыкаграфічнай ніве было ня лёгка. Рэдкалегія будзе ўдзячная ўсім, хто прышле свае крытычныя водгукі і заўвагі на адрас:

Belarusian Institute of Arts and Sciences
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432
USA

# NOTES FOR THE USER

## ENTRY STRUCTURE

The typical entry includes English word(s) (in bold type), pronunciation [in square brackets; according to the International Phonetic Alphabet], the designation(s) of part of speech, Belarusian equivalent(s) with indication of gender, and illustrating English phrase(s) with Belarusian rendition(s).

Belarusian synonyms are separated by a comma or semi-colon depending on the semantic proximity. Further lexic subdivisions are indicated by Arabic numbers and letters а), б), в), etc.

> **autonomy** [ɔ:ˈtɑ:nəmi] n., pl. **-mies** 1. аўтано́мія *f.*
> а) самаўра́д -у *m.*, самакірава́ньне *n.*; незале́жнасьць *f.*
> б) пра́ва на самакірава́ньне. 2. аўтано́мная дзяржа́ва.
> 3. самасто́йнасьць *f.*

## ENTRY-WORD SPELLING, PRONUNCIATION, AND STRESSES

This dictionary follows American usage and spelling. For some words, British spelling is given preceded by the abbreviation "Brit." Alternative spelling variants within American transcription are also indicated.

In pronunciation, the mark [ˈ] indicates stress on the ensuing syllable: if placed above, the stress is primary, if below, the stress is secondary. Pronunciation is not provided for entries consisting of two or more components (as **absentee landlord** or **bill of exchange**). Their pronunciation is found under each word separately.

Round parentheses around a letter or a word (words) indicate alternative spelling or usage.

In all Belarusian words other than monosyllabic the stress is provided, with the exception of the letter -ё- which is always stressed.

## HOMONYMS

Homonyms are marked by Roman numerals: I, II, etc.

> **mail I** [meɪl] – n. 1. по́шта. 2. карэспандэ́нцыя *f.*
> 3. пашто́вы тра́нспарт...
> **mail II** [meɪl] n. 1. кальчу́га *f.* 2. браня́ *f.*, па́нцыр -у *m.* ...

## ALPHABETICAL ORDER OF ENTRY-WORDS

Entries comprising two or more words are alphabetized as if they were one word (letter by letter). For example, the entry **want ad** precedes the entry **wanting**.

## SUBJECT AND STYLE INDICATORS

For clarity, subject and style indicators are provided.

> Subject: **Bot.** (Botany), **Mus.** (Music), **Psych.** (Psychiatry).
> Style: **Sl.** (Slang), **Figur.** (Figurative), **Obsol.** (Obsolete).

## PARTS OF SPEECH DESIGNATORS

- adj. = adjective – прыметнік
- adv. = adverb – прыслоўе
- interj. = interjection – выклічнік
- n. = noun – назоўнік
- p.p. = past participle – дзеепрыметнік мінулага часу
- prep. = preposition – прыназоўнік
- pref. = prefix – прэфікс, прыстаўка
- pres. p. = present participle – дзеепрыметнік цяперашняга часу
- pron. = pronoun – займеньнік
- p.t. = past tense – мінулы час
- v. = verb – дзеяслоў
- v.i. = verb intransitive – непераходны дзеяслоў
- v.t. = verb transitive – пераходны дзеяслоў

## GRAMMATICAL FORMS OF THE ENTRY-WORD

If an entry-word is used as, for example, noun, verb, and adjective, each part of speech is marked by a designator with a dash. For example:

**master** [ˈmæstər] – n. 1. a) гаспада́р -а́ *m.*, улада́льнік -а *m.*
б) капіта́н гандлёвага су́дна...
– adj. 1. галоўны: ***a master bedroom*** галоўная спа́льня.
2. высокакваліфікава́ны...
– v.t. 1. адо́льваць, асі́льваць, апано́ўваць, перамага́ць; падпарадко́ўваць сабе...

**semiweekly** [ˌsemiˈwi:kli] – adj. паўтыднёвы
– adv. двойчы на ты́дзень
– n. паўтыднёвік -а *m.* (*ча́сапіс, газэ́та*)

## NOUNS

Irregular nouns have their plural form indicated:

**buddy** [ˈbʌdi] n., pl. **-dies** Informal 1. блі́зкі ся́бра, кале́г|а -і *m.* 2...
**buffalo** [ˈbʌfəlou] – n., pl. **-loes, los** or esp. coll. **-lo** бу́йл|а -ы, бу́йвал -а *m.*, бу́йваліца *f.*; амэрыка́нскі бізо́н ...
**goose** [gu:s] n., pl. **geese** 1. гусь *f.* 2. Informal ду́р|ань -ня *m.*, дурні́ца, разява́к|а -і *m. & f.*
**mouse** [maʊs] – n., pl. **mice** [maɪs] 1. мыш, мы́шка *f.*
2. Comput. мыш *f.* 3. нясьме́лы, сарамлі́вы чалаве́к...

The gender of Belarusian nouns is indicated by an italicized letter.

*f.* = feminine – жаночы
*m.* = masculine – мужчынскі
*n.* = neuter – ніякі

In Belarusian nouns of masculine gender the Genitive ending is given. (In rare cases the Genitive form is spelled out: акар *акра*, госьць *гасьця*, стол *стала*). The unchanging part of the word is separated from the changeable part by a bar:

**walker** [ˈwɔ:kər] n. 1. пешахо́д -а *m.*, хад|о́к -ака́ *m...*
**wallet** [ˈwɑ:lət] n. каша|лёк -льќа *m.*, партманэ́т -а *m.*

When Belarusian synonymous masculine nouns follow one another and have identical Genitive endings, then one ending is given for all of them at the end of the row:

**clang** [klæŋ] – n. ля́скат, бра́згат -у *m...*
**clatter** [ˈklætər] – n. 1. стук, звон -у *m...*
**waiter** [ˈweɪtər] n. 1. афіцыя́нт, ке́льнэр -а *m...*

Also, when two or more synonymous nouns are of the same gender, then the gender (*m.*, *f.* or *n.*) is given for all of them at the end of the row:

**abetment** [əˈbetmənt] n. падбіва́ньне; падбухто́рваньне; заахво́чваньне *n.*
**accordance** [əˈkɔ:rdəns] n. згодна́сьць; адпаве́днасьць *f...*
**bulk** [bʌlk] – n. 1. а) паме́р, аб'ём -у *m...*

Often the feminine form of the Belarusian equivalent is given:

**settler** [ˈsetələr] n. 1. пасяле́н|ец -ца *m.*, пасяле́нка *f...*
**sewer II** [ˈsouər] n. шв|ец -яца́ *m.*, шва́чка *f.*

## ADJECTIVES

Irregular forms of comparative and superlative adjectives are indicated:

**bad** [bæd] – adj. **worse, worst** ...
**good** [gʊd] – adj. **better, best** ...

## VERBS

Transitivity or intransitivity of verbs is indicated by letters v.t. or v.i., respectively. If the verb is used both as transitive and intransitive, it is marked by "v." only. In irregular verbs inflected forms are given:

**abide** [əˈbaɪd] v., **abode** or **abided, abiding** ...
**bid** [bɪd] – v.t., **bade, bid** or **bad, bidden** or **bid, bidding** ...
– v.i. ...

Doubling of the final consonant in a verb in past tense and participles is given in parentheses:

**nab** [næb] v. **(-bb-)** Sl. 1. злавíць...
**nag** [næg] v. **(-gg-)** 1. даймáць *кагó*, дапякáць *камý* ...

## ILLUSTRATING EXAMPLES, SYNONYMS, AND IDIOMS

In verbal illustrating phrases marked by the dot the infinitive indicator *to* is implied. Whereas undotted verbal phrases are preceded by *to*:

**break I** [breɪk] – v.t., **broke** or Archaic **brake, broken**
1. разьбівáць; ламáць, рвáць (*нíтку*).
2. разьмéньваць (*грóшы*). 3. шкóдзіць, ламáць:
***to break the machine*** паламáць машы́ну; ***to break one's arm*** зламáць рукý. 4. парушáць, не датры́мваць:
***to break the law*** парýшыць закóн ...
....
• ***break away*** a) адламáцца; адарвáцца...
• ***break down*** a) папсавáцца, зламáцца...
• ***break in*** a) аб'яжджáць (*маладóга каня́*), навучáць ...

In many entries examples are used to better explain the meaning of an English word or idiom.

**make** [meɪk] – v.t., **made** 1. рабíць; будавáць, утварáць: ***to make a new dress*** пашы́ць нóвую сукéнку; ***to make a boat*** збудавáць чóвен; ***to make a bed*** пасла́ць лóжак; ***to make a fire*** раскла́сьці агóнь ...

In some entries idiomatic expressions are given to illustrate the meaning of the entry-word. Corresponding Belarusian idioms, if found, are used:

**boat** [boʊt] – n. 1. чóвен, чаўнá *m.*, лóдка *f.* 2. вадаплáў -ва, караблéль -ля́ *m.*
– v.i. 1. сядáць у чóвен, на вадаплáў, плы́сьці чаўнóм *абó* вадаплáвам
– v.t. веславáць, перавóзіць чаўнóм
• ***burn one's boats*** спалíць за сабóю масты́
• ***in the same boat*** у такíм сáмым станóвішчы *абó* ўмóвах
• ***miss the boat,*** Informal прапусьцíць, празявáць нагóду
• ***rock the boat,*** Informal разгóйдваць чóвен, парýшаць нармáльны парáдак

# ЯК КАРЫСТАЦЦА СЛОЎНІКАМ

## СКЛАД СЛОЎНІКА. ВЫМАЎЛЕНЬНЕ. ПРАВАПІС

Рэестар слоўніка складаецца з агульнаўжывальнай лексыкі ды найважнейшых геаграфічных назоваў.

У ангельскай частцы слоўніка ўжыты амэрыканскі правапіс. Для некаторых слоў падаецца таксама брытанскае напісаньне, адзначанае абрэвіятурай Brit. Калі амэрыканскае напісаньне мае два варыянты, падаюцца абодва, на першым месцы – варыянт, часьцей ужываны. Альтэрнатыўнае напісаньне адзначаецца круглымі дужкамі.

Парадак загалоўных словаў альфабэтны. Калі ў якасьці загалоўных словаў выступаюць словазлучэньні, якія складаюцца з двух або больш кампанэнтаў, то іх месца ў рэестры залежыць ад альфабэтнага парадку кожнага кампанэнту. Прыкладам, **want ad** стаіць перад **wanting**.

Пры наяўнасьці артаграфічных, акцэнтных ці словаўтваральных варыянтаў, адзін зь іх рэкамэндуецца як асноўны, унармаваны, а другі — як дапушчальны, варыянтны. Калі згодна з альфабэтным рэестрам яны стаяць побач, то падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле. Першым падаецца слова, якое лічыцца нормай, другім – ягоны варыянт. Калі варыянтныя словы займаюць розныя месцы адносна альфабэту, кожнае слова распрацоўваецца паасобку як загалоўнае.

Усе загалоўныя словы забясьпечаныя фанэтычнай транскрыпцыяй у квадратных дужках непасрэдна пасьля самога слова. Вымаўленьне даецца паводле сыстэмы Міжнароднай фанэтычнай транскрыпцыі. Націск у транскрыпцыі ставіцца перад націскным складам. Асноўны (першасны) націск абазначаецца знакам зьверху [ˈ...], дадатковы (другасны) – знакам зьнізу [ˌ...].

Вымаўленьне не адзначаецца, калі ў ролі загалоўнага слова выступае словазлучэньне, прыкладам, **absentee landlord** або **bill of exchange**. Вымаўленьне кожнага кампанэнта словазлучэньня паказанае ў альфабэтным рэестры слоўніка паасобку.

Усе словы беларускай часткі маюць націск, за выняткам аднаскладовых словаў і словаў зь літарай –ё-, якая заўсёды націскная.

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭНЬНІ

У беларускай частцы слоўнікавага артыкулу блізказначныя словы адзначаюцца арабскімі лічбамі (1, 2, 3 і г .д.). Сынонімы ў межах асобнай лічбы – коскай або кропкай з коскай у залежнасьці ад сэмантычнай або стылістычнай блізкасьці. У чарговасьці сынонімаў перавага даецца спрадвечнабеларускім словам. Пры больш дакладнай сэмантычнай і стылістычнай градацыі ў межах лічбаў ужываюцца літары — а), б), в) і г.д.:

**operation** [ˌɑːpəˈreɪʃən] n. 1. дзе́яньне *n.*, пра́ца *f.*:
***to come into operation*** пача́ць працава́ць, дзе́яць;
***in operation*** а) у дзе́яньні, працу́е. б) у выкарыста́ньні, ва ўжы́тку. 2. кірава́ньне, абслуго́ўваньне *n.*:
***the operation of a machine*** абслуго́ўваньне машы́ны.
3. апэра́цыя *f.* ...

Амонімы абазначаюцца рымскімі лічбамі (I, II і г. д.)

**mail I** [meɪl] – n. 1. по́шта. 2. карэспандэ́нцыя *f.*
3. пашто́вы тра́нспарт...
**mail II** [meɪl] n. 1. кальчу́га *f.* 2. браня́ *f.*, па́нцыр -у *m.* ...

Кожнае загалоўнае ангельскае слова мае граматычную характарыстыку ў выглядзе абрэвіятуры:

- adj. = adjective – прыметнік
- adv. = adverb – прыслоўе
- interj. = interjection – выклічнік
- n. = noun – назоўнік
- p.p. = past participle – дзеепрыметнік мінулага часу
- prep. = preposition – прыназоўнік
- pref. = prefix – прэфікс, прыстаўка
- pres. p. = present participle – дзеепрыметнік цяперашняга часу
- pron. = pronoun – займеньнік

- p.t. = past tense – мінулы час
- v. = verb – дзеяслоў
- v.i. = verb intransitive – непераходны дзеяслоў
- v.t. = verb transitive – пераходны дзеяслоў

Граматычны род беларускага назоўніка абазначаецца літарамі:

*f.* = feminine – жаночы
*m.* = masculine – мужчынскі
*n.* = neuter – ніякі

Лічэбнікі (numerals) у ангельскай граматыцы залічаюцца да назоўнікаў або прыметнікаў у залежнасьці ад канктэксту.

Калі загалоўнае слова ўжываецца ў значэньні іншай часьціны мовы, яно памячаецца адпаведнай паметай з працяжнікам наперадзе ( – n., – adj., – v.t. і г. д.):

**master** [ˈmæstər] – n. 1. a) гаспадáр -á *m.*, уладáльнік -a *m.*
б) капітáн гандлёвага сýдна...
– adj. 1. галóўны: ***a master bedroom*** галóўная спáльня.
2. высóкакваліфікавáны...
– v.t. 1. адóльваць, асíльваць, апанóўваць, перамагáць;
падпарадкóўваць сабе...

**semiweekly** [ˌsemiˈwi:kli] – adj. паўтыднёвы
– adv. двойчы на ты́дзень
– n. паўтыднёвік -a *m.* (*чáсапіс, газэ́та*)

Тэрміны й спэцыяльныя словы забясьпечваюцца, пры неабходнасьці, умоўнымі скаротамі, прыкладам **Bot.** (батаніка), **Mus.** (музыка), **Psych.** (псыхіятрыя), **Sl.** (жаргон), **Figur.** (пераноснае), **Obsol.** (састарэлае).

## ГРАМАТЫЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ ЧАСЬЦІН МОВЫ

### НАЗОЎНІК

Рэгулярная форма множнага ліку ангельскага назоўніка (з канчаткам –s, далучаным да формы адзіночнага ліку) звычайна ў слоўніку не падаецца. Для назоўнікаў зь няправільнай формай множнага ліку падаюцца паказьнікі множнага ліку або цалкам слова ў форме множнага ліку:

**buddy** [ˈbʌdi] n., pl. **-dies** Informal 1. блíзкі ся́бра,
калéгla -і *m.* 2...
**buffalo** [ˈbʌfəloʊ] – n., pl. **-loes, los** or esp. coll. **-lo**
бýйлla -ы, бýйвал -a *m.*, бýйваліца *f.*; амэрыкáнскі бізóн ...
**goose** [gu:s] n., pl. **geese** 1. гусь *f.* 2. Informal дýрlань -ня *m.*,
дурнíца, разявáкla -і *m.* & *f.*
**mouse** [maʊs] – n., pl. **mice** [maɪs] 1. мыш, мы́шка *f.*
2. Comput. мыш *f.* 3. нясьмéлы, сарамлíвы чалавéк...

У беларускіх назоўніках мужчынскага роду адзначаныя канчаткі роднага склону –a або –y. (У асобных выпадках слова ў форме роднага склону падаецца поўнасьцю: акар *акра*, госьць *гасьця*, стол *стала*). Нязьменная частка назоўніка аддзяляецца ад канчатка вэртыкальнай рысачкай:

**walker** [ˈwɔ:kər] n. 1. пешахóд -a *m.*, хадlóк -акá *m.*..
**wallet** [ˈwɑ:lət] n. кашаlлёк -лькá *m.*, партманэ́т -a *m.*

Калі прыводзяцца адзін за адным некалькі сынанімічных назоўнікаў мужчынскага роду з аднолькавым канчаткам роднага склону, то канчатак паказваецца ў канцы шэрагу:

**clang** [klæŋ] – n. ля́скат, брáзгат -y *m.*..
**clatter** [ˈklætər] – n. 1. стук, звон -y *m.*..
**waiter** [ˈweɪtər] n. 1. афіцыя́нт, кéльнэр -a *m.*..

У межах слоўнікавага артыкулу аналягічна абазначаецца род назоўнікаў (*m.*, *f.*, *n.*) аднаго сынанімічнага шэрагу:

**abetment** [əˈbetmənt] n. падбіва́ньне; падбухто́рваньне; заахво́чваньне *n.*
**accordance** [əˈkɔ:rdəns] n. зго́днасьць; адпаве́днасьць *f...*
**bulk** [bʌlk] – n. 1. а) паме́р, аб'ём -у *m...*

У назоўніках, якія абазначаюць прафэсію, занятак, месца жыхарства асобы, падаюцца абедзьве формы – мужчынскага й жаночага роду:

**settler** [ˈsetələr] n. 1. пасяле́н|ец -ца *m.*, пасяле́нка *f...*
**sewer II** [ˈsoʊər] n. шв|ец -яца́ *m.*, шва́чка *f.*

**ПРЫМЕТНІК**

Калі ў ангельскім прыметніку параўнальная й найвышэйшая ступені параўнаньня маюць няправільныя формы, яны пішуцца поўнасьцю:

**bad** [bæd] – adj. **worse, worst** ...
**good** [gʊd] – adj. **better, best** ...

**ДЗЕЯСЛОЎ**

Пераходнасьць або непераходнасьць дзеясловаў абазначаецца адпаведна абрэвіятурамі v.t. або v.i. Калі дзеяслоў ужываецца як пераходны й непераходны, ён пазначаецца літарай v.:

**abide** [əˈbaɪd] v., **abode** or **abided, abiding** ...
**bid** [bɪd] – v.t., **bade, bid** or **bad, bidden** or **bid, bidding** ...
– v.i. ...

Няправільныя формы ангельскага дзеяслова падаюцца непасрэдна пасьля граматычнай паметы:

**eat** [i:t] v.t., **ate, eaten, eating** ...
**go** [goʊ] v.i., **went, gone, going** ...

Падваеньне канцавога зычнага ў дзеясловах і дзеепрыметніках мінулага часу падаецца ў дужках:

**nab** [næb] v. **(-bb-)** Sl. 1. злаві́ць...
**nag** [næg] v. **(-gg-)** 1. дайма́ць *каго́*, дапяка́ць *каму́* ...

**ІДЫЁМЫ**

Ілюстрацыйныя фразэалягічныя выразы пазначаюцца спэцыяльным знакам (bullet). Па магчымасьці прыводзяцца беларускія адпаведнікі:

**boat** [boʊt] – n. 1. чо́вен, чаўна́ *m.*, ло́дка *f.* 2. вадапла́ў -ва, караб|е́ль -ля́ *m.*
– v.i. 1. сяда́ць у чо́вен, на вадапла́ў, плы́сьці чаўно́м *або́* вадапла́вам
– v.t. веслава́ць, пераво́зіць чаўно́м
• ***burn one's boats*** спалі́ць за сабо́ю масты́
• ***in the same boat*** у такі́м са́мым стано́вішчы *або́* ўмо́вах
• ***miss the boat,*** Informal прапусьці́ць, празява́ць наго́ду
• ***rock the boat,*** Informal разго́йдваць чо́вен, пару́шаць нарма́льны пара́дак

## ABBREVIATIONS USED IN THIS DICTIONARY
## УМОЎНЫЯ СКАРОТЫ

| | | |
|---|---|---|
| abbr. | abbreviation | скарот |
| adj. | adjective | прыметнік |
| adv. | adverb | прыслоўе |
| Aeron. | Aeronautics | аэранаўтыка |
| Agric. | Agriculture | сельская гаспадарка |
| Anat. | Anatomy | анатомія |
| Arch. | Architecture | архітэктура |
| Astrol. | Astrology | астралёгія |
| Astron. | Astronomy | астраномія |
| Auto. | Automobile | аўтамабіль |
| Av. | Aviation | авіяцыя |
| Bibl. | Biblical | біблійнае |
| Biol. | Biology | біялёгія |
| Bookkeep. | Bookkeeping | бухгальтэрыя |
| Bot. | Botany | батаніка |
| Brit. | British | брытанскае |
| Can. | Canadian | канадзкае |
| Chem. | Chemistry | хімія |
| coll. | collective | зборнае |
| colloq. | colloquial | размоўнае |
| Comm. | Commerce | гандаль |
| compar. | comparative | вышэйшая ступень (прыметніка) |
| Comput. | Computer | кампутар |
| conj. | conjunction | злучнік |
| Constr. | Construction | будаўніцтва |
| demonstr. | demonstrative | паказальны (займеньнік) |
| dim. | diminutive | памяншальнае |
| Diplom. | Diplomacy | дыпляматыя |
| Eccl. | Ecclesiastical | царкоўнае |
| Econ. | Economics | эканоміка |
| Electr. | Electricity | электрычнасьць |
| emph. | emphatic | узмацняльнае |
| Engin. | Engineering | інжынэрыя |
| esp. | especially | асабліва |
| *f.* | feminine | жаночы род |
| Figur. | Figurative | пераноснае |
| Fr. | French | француская |
| Geogr. | Geography | геаграфія |
| Geol. | Geology | геалёгія |
| Geom. | Geometry | геамэтрыя |
| Gram. | Grammar | граматыка |
| Hist. | History | гісторыя |
| Hum. | Humor | гумар |
| impers. | impersonal | безасабовы |
| *indecl.* | indeclinable | нескланяльнае |
| interj. | interjection | выклічнік |
| Lat. | Latin | лацінскае |
| Ling. | Linguistics | моваведа |
| Lit. | Literature | літаратура |
| *m.* | masculine | мужчынскі род |
| Math. | Mathematics | матэматыка |
| Med. | Medicine | мэдыцына |
| Meteor. | Meteorology | мэтэаралёгія |
| Milit. | Military | ваеннае, вайсковае |
| Min. | Mineralogy | мінэралёгія |
| Mus. | Music | музыка |

| | | |
|---|---|---|
| Myth. | Mythology | міталёгія |
| n. | noun | назоўнік |
| *n.* | neutral | ніякі род |
| Naut. | Nautical | марское |
| obj. | objective | ускосны склон |
| Obsol. | Obsolete | састарэлае |
| pf. | perfective | закончаны лад |
| Pharm. | Pharmacology | фармакалёгія |
| Philos. | Philosophy | філязофія |
| Phon. | Phonetics | фанэтыка |
| Photogr. | Photography | фатаграфія |
| Phys. | Physics | фізыка |
| Physiol. | Physiology | фізыялёгія |
| pl. | plural | множны лік |
| Poet. | Poetic | паэтычнае |
| poss. | possessive | прыналежнае |
| p.p. | past participle | дзеепрыметнік мінулага часу |
| pref. | prefix | прыстаўка |
| prep. | preposition | прыназоўнік |
| pres. p. | present participle | дзеепрыметнік цяперашняга часу |
| Print. | Printing | друкарства |
| pron. | pronoun | займеньнік |
| Psych. | Psychology | псыхалёгія |
| p.t. | past tense | мінулы час |
| refl. | reflexive | зваротны стан |
| Relig. | Religion | рэлігія |
| Rhetor. | Rhetoric | рыторыка |
| Scot. | Scottish | шатляндзкае |
| sing. | singular | адзіночны лік |
| Sl. | Slang | жаргон, слэнг |
| superl. | superlative | найвышэйшая ступень (прыметніка) |
| Surg. | Surgery | хірургія |
| Tech. | Technical | тэхнічнае |
| Telev. | Television | тэлевізія |
| Theatr. | Theatrical | тэатральнае |
| Trig. | Trigonometry | трыганамэтрыя |
| U.S. | United States | Злучаныя Штаты |
| v. | verb | дзеяслоў |
| v.i. | verb intrasitive | непераходны дзеяслоў |
| v.t. | verb transitive | пераходны дзеяслоў |
| Vulg. | Vulgar | вульгарнае |
| Zool. | Zoology | заалёгія |

| | |
|---|---|
| асабл. | асабліва |
| гл. | глядзі |
| лац. | лацінскі выраз |
| напр. | напрыклад |
| тс. | таксама |
| фр. | францускі выраз |

# LEXICOGRAPHIC SOURCES
# ЛЕКСЫКАГРАФІЧНЫЯ КРЫНІЦЫ


• The Amecian Heritage Dictionary. Fourth Edition. Random House: New York, 2001.

• Wielki Slownik Angielsko-Polski PWN-Oxford. Chief Editor: Prof. Jadwiga Linde-Usiekniewicz. Warszawa, 2002.

• English-Russian Dictionary. V. K. Mueller. 24th Revised Edition. Moscow. 1995.

• Oxford Russian Dictionary. English-Russian, edited by Paul Falla; Russian-English, edited by Marcus Wheeler and Boris Unbegaun. Revised and updated by Collin Howlett. Oxford – New York: Oxford University Press, 1997.

• The Oxford Dictionary of Current English. New Revised Edition. Edited by Della Thompson. London, 1998.

• Random House Webster's Unabridged Dictionary (Electronic Version). 1999.

• Longman Advanced American Dictionary of American English. Harlow, 2000.

• J.C.Wells. Longman Pronunciation Dictionary. Second Edition. Harlow, 2000.

• Слоўнік беларускай мовы. Пад рэдакцыяй М.В.Бірылы. Мінск, 1987.

• А.М.Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў. У 2-х т. Мінск, 1999.

• Англа-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай лексікі. Укладальнікі Л. Т. Карповіч і Л. А. Казыра. Мінск, 1993.

• Англо-український словник. Склали М. Л. Подвезько, М. І. Балла. Київ, 1974.

• Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік. Published by Lew Sapieha Greatlitvan (Byelorussian) Foundation. Укладальнік др. Я. Станкевіч. New York, [1989].

• Беларуска-рускі слоўнік у двух тамах. Рэдактар К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва). Выданне 2-е. Мінск, 1988, 1989.

• Польска-беларускі слоўнік. Укладальнікі Я. В. Волкава і В. Л. Авілава, пад рэд. Г. А. Цыхуна. Мінск, 2004.

• Расійска-крыўскі (Беларускі) слоўнік. Укладальнік В. Ластоўскі. Коўна, 1924.

• М.Байкоў, С.Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. Менск, 1926.

• С.Некрашэвіч, М.Байкоў. Расійска-беларускі слоўнік. Менск, 1928.

• Руска-беларускі слоўнік. Рэдактар К. К. Крапіва. Выданне 2-е. Мінск, 1982.

• Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча ў пяці тамах. Рэдакцыйная калегія: Ю. Ф. Мацкевіч і інш. Мінск, 1979-1986.

• Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Пад рэд. М. Р. Судніка і М. Н. Крыўко. Выданне 2-е. Мінск, 1999.

• Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў пяці тамах. Пад агульнай рэдакцыяй акадэміка АН БССР К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы). Мінск, 1977-1984.

• Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы ў двух тамах. Укладальнік І. Я. Лепешаў. Мінск, 1993.

# ENGLISH ALPHABET
# АНГЕЛЬСКІ АЛЬФАБЭТ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Aa** | **Bb** | **Cc** | **Dd** | **Ee** | **Ff** |
| **Gg** | **Hh** | **Ii** | **Jj** | **Kk** | **Ll** |
| **Mm** | **Nn** | **Oo** | **Pp** | **Qq** | **Rr** |
| **Ss** | **Tt** | **Uu** | **Vv** | **Ww** | **Xx** |
| | | **Yy** | **Zz** | | |

# A

**A** [eɪ] n., pl. **As** or **A's** 1. *першая літара англійскага альфабэту.* 2. найлепшы, першы: ***Grade A eggs*** яйкі найвышэйшага гатунку; ***Company A in an infantry battalion*** першая рота пяхотнага батальёну. 3. выдатна (*школьная адзнака*): ***to get an A in Belarusian*** атрымаць выдатна зь беларускае мовы. 4. Mus. ля

**a, an** [*unstressed* ə; *stressed* eɪ]. adj. or indefinite article 1. *неазначальны артыкль (не перакладаецца). "a" ставіцца перад зычнымі, апрача нямога "h", перад "eu" ды "u":* ***a tree, a horse*** *"an" — перад галоснымі і нямым "h":* ***an apple, an heir*** 2. (*часта перад собскімі іменамі*) такі, гэткі як: ***a Napoleon*** такі Напалеон; ***He is a Cicero in eloquence*** Ён як Цыцэрон у красамоўстве; ***She is a saint among women*** Яна як сьвятая сярод жанчын. 3. адзін: ***to have a million dollars*** мець мільён даляраў; ***not a*** ані, ніякі. 4. ***a few*** некалькі; ***a good many*** вельмі шмат; ***a little*** крышку. 5. *"a" звычайна ўжываецца пасьля:* ***all of, many of, many, such, what: all of a size*** усе такой самай велічыні; ***many a man*** шмат хто; ***such a*** такі; ***what a bore*** што за нуда. 6. *у некаторых зваротах:* ***twice a day*** двойчы на дзень; ***once a week*** раз на тыдзень; ***one cent a piece*** па цэнце за штуку; ***90 cents a dozen*** дзевяноста цэнтаў за тузін. 7. нехта; ***a Mr. Henry Green*** нейкі спадар Гэнры Грын

**aback** [əˈbæk] adv. назад, тылам, узад, ззаду:***to stand aback from*** трымацца ззаду, на адлегласьці; ***to take aback*** зьбянтэжыць, засьпець зьнянацку

**abacus** [ˈæbəkəs] n. 1. лічыльныя косткі, лічыльнікі *pl. only.* 2. Archit. абака *f.* (*верхняя частка калёны*)

**abaft** [əˈbæft] – prep. ззаду *чаго*, за *чым.* – adv. Naut. ззаду карабля, на карме; у бок кармы

**abandon** [əˈbændən] – v.t. 1. пакідаць; адмаўляцца: ***to abandon a career*** пакінуць прафэсію; ***to abandon a custom*** адыйсьці ад звычаю; ***to abandon one's home*** пакінуць (свой) дом. 2. адракацца; адмаўляцца; адступаць: ***to abandon one's position*** адмовіцца ад сваёй пазыцыі, перекананьня. 3. парываць; выракацца; пазбывацца: ***to abandon a habit*** пазбывацца звычкі. 4. аддавацца; упадаць: ***to abandon oneself to despair*** аддавацца роспачы, упадаць у роспач
– n. 1. бестурботнасьць *f.:* ***to dance with youthful abandon*** танцаваць з маладой бестурботнасьцю. 2. бесцырымоннасьць, нястрыманасьць *f.*

**abandoned** [əˈbændənd] adj. 1. пакінуты, занядбаны. 2. нястрымны: ***abandoned laughter*** нястрымны сьмех. 3. распусны

**abandonment** [əˈbændənmənt] n. 1. пакіда́ньне *n.* 2. адступле́ньне ад *чаго́*; зрачэ́ньне *n.*

**abase** [əˈbeɪs] v.t. 1. паніжа́ць (*ра́нгам*). 2. прыніжа́ць: ***to abase oneself*** прыніжа́цца; ***A man who betrays his country abases himself*** Чалаве́к, які́ здра́джвае сваймý кра́ю, прыніжа́е само́га сябе́

**abasement** [əˈbeɪsmənt] n. прыніжэ́ньне *n.*; паніжэ́ньне ра́нгам

**abash** [əˈbæʃ] v. саро́міць; бянтэ́жыць: ***to be abashed*** саро́мецца; бянтэ́жыцца

**abashment** [əˈbæʃmənt] n. засаро́мленасьць, зьбянтэ́жанасьць *f.*

**abate** [əˈbeɪt] – v.i. сьцiша́цца, усьцiша́цца; суніма́цца: ***The storm has abated*** Бу́ра сьці́шылася
– v.t. 1. сьцiша́ць; суніма́ць: ***Aspirin abated his pain*** Асьпіры́н сьці́шыў ямý боль. 2. зьмянша́ць; зьніжа́ць: ***abate a tax*** зьні́зіць пада́так. 3. Law касава́ць; анулява́ць

**abatement** [əˈbeɪtmənt] n. 1. спад -у *m.*, зьме́ншаньне *n.*; зьні́жка *f.*, зьніжэ́ньне *n.*: ***abatement of the prices*** зьні́жка цэ́наў. 2. Law скасава́ньне, анулява́ньне *n.*

**abb** [æb] n., Brit. уто́к *f.* (*у тка́цтве*)

**abbacy** [ˈæbəsi] n., pl. **-cies** 1. аба́цтва, ігу́менства *n.* 2. раён *або́* грамада́, кірава́ная аба́там

**abbess** [ˈæbes] n. абаты́са, ігу́меньня *f.*

**abbey** [ˈæbi] v.t. аба́цтва *n.*, манасты́р -а́ *m.*

**abbot** [ˈæbət] n. аба́т -а, ігу́мен -а *m.*, кіраўні́к манастыра́

**abbreviate** [əˈbri:vieɪt] v. 1. скарача́ць. 2. скарача́цца

**abbreviation** [əˌbri:viˈeɪʃən] n. скарачэ́ньне *n.* (*сло́ва*); скаро́т -у *m.*

**A.B.C. book** леманта́р, буква́р -а́ *m.*

**ABCs** [ˌeibi:ˈsi:z] n. pl. 1. абэцэ́да *f.*, альфабэ́т -у *m.* 2. пачатко́выя ве́ды; асно́вы *pl.*: ***to master the ABC's of swimming*** апанава́ць асно́вы пла́ваньня

**abdicate** [ˈæbdɪkeɪt] v. 1. абдыкава́ць; адмаўля́цца: ***The king abdicated his throne*** Каро́ль адмо́віўся ад тро́ну. 2. адыхо́дзіць: ***Those who abdicate life socially, will soon abdicate from life itself*** Ты́я, што адыхо́дзяць ад грама́дзкага жыцьця́, ху́тка ады́йдуць ад само́га жыцьця́

**abdication** [ˌæbdɪˈkeɪʃən] n. абдыка́цыя *f.*; адмаўле́ньне ад пасады

**abdomen** [ˈæbdəmən] n. 1. Anat., Zool. чэ́рава, бру́ха *n.*; жыві́о́т -ата́ *m.* 2. брушна́я по́ласьць *f.* 3. бру́шка (*у чле́ністано́гіх*) *n.*

**abdominal** [æbˈdɑ:mɪnəl] adj. брушны́: ***the abdominal muscles*** брушны́я му́скулы

**abdominous** [æbˈdɑ:mɪnəs] adj. бруха́ты, пуза́ты

**abduce** [æbˈdu:s] v.t. адво́дзіць (*убо́к*)

**abducent** [æbˈdu:sənt] adj., Anat. адво́дны: ***abducent muscles*** адво́дныя му́скулы

**abduct** [æbˈdʌkt] v.t. выкрада́ць (*асо́бу*)

**abduction** [æbˈdʌkʃən] n. выкрада́ньне *n.*

**abductor** [æbˈdʌktər] n. 1. выкрада́льнік -а *m.* 2. адво́дны му́скул *m.*

**abed** [əˈbed] adv. у ло́жку

**Abel** [ˈeɪbəl] n., Bibl. Абэ́ль (*2-гі́ сын Ада́ма й Евы*)

**aberrance** [æˈberəns] n. адхіле́ньне (*ад кіру́нку, но́рмы, пра́віла*)

**aberrancy** [æˈberənsi] n. = **aberrance**

**aberrant** [æˈberənt] – adj. адхі́лены ад но́рмы, ненарма́льны; няпра́вільны: ***a rocket on an aberrant course*** раке́та адхілі́лася ад ку́рсу; ***aberrant behavior*** ненарма́льныя паво́дзіны
– n. ненарма́льн|ы -ага *m.*, ненарма́льная *f.*

**aberration** [ˌæbəˈreɪʃən] n. 1. адхіле́ньне, ухіле́ньне *n.* (*ад пра́вільнага шляху ці ку́рсу*): ***aberration of the mind*** замгле́ньне *n.* ро́зуму. 2. адхіле́ньне *n.* (*ад пра́віла, ты́пу, станда́рту*). 3. Astron. абэра́цыя *f.*, адхіле́ньне *n.*: ***aberration of the needle*** адхіле́ньне магні́тнае стрэ́лкі

**abet** [əˈbet] v.t. намаўля́ць, падбіва́ць, падбухто́рваць: ***to abet a crime*** падбухто́рыць да злачы́нства

**abetment** [əˈbetmənt] n. падбіва́ньне; падбухто́рваньне; заахво́чваньне *n.*

**abetter** or **abettor** [əˈbetər] n. падбухто́рнік -а, падмо́ўнік -а *m.*; падбухто́рніца, падмо́ўніца *f.*

**abeyance** [əˈbeɪəns] n. часо́вая бязьдзе́йнасьць *f.*, часо́вае неўжыва́ньне *n.*: ***The custom was revived after an abeyance of several centuries*** Звы́чай быў адно́ўлены пасьля́ не́калькіх стаго́дзьдзяў забыцьця́

• ***in abeyance*** а) у ча́се прыпыне́ньня дзе́йнасьці. б) Law у ча́се чака́ньня зако́ннага ўла́сьніка

**abhor** [æbˈhɔ:r] v.t. 1. гі́дзіцца, бры́дзіцца; ненаві́дзець: ***She abhors snakes*** Яна́ гі́дзіцца зьме́яў; ***to abhor cruelty*** мець агі́ду да лю́тасьці. 2. жаха́цца; уздры́гваць; калаці́цца: ***to abhor the idea of war*** жаха́цца ад аднае́ ду́мкі пра вайну́

**abhorrence** [æbˈhɔ:rəns] n. 1. агі́да, няна́вісьць *f.* 2. што́сьці агі́днае

**abhorrent** [æbˈhɔ:rənt] adj. агі́дны, абры́длы, гі́дкі; жахлі́вы: ***abhorrent conduct*** агі́дныя паво́дзіны

• ***abhorrent to*** супяра́чны, нязго́дны, несумяшча́льны зь не́чым: ***abhorrent to nature*** супяра́чны прыро́дзе

**abidance** [əˈbaɪdəns] n. знахо́джаньне *n.*, ***abidance by*** прытры́мваньне, вspeckóнваньне *n.*: ***The coach demanded abidance by the rules of the game*** Трэ́нэр патрабава́ў прытры́мваньня пра́вілаў гульні́

**abide** [əˈbaɪd] v., **abode** or **abided, abiding** 1. цярпе́ць; вытры́мваць. 2. прытры́мвацца, падпара́дкавацца; застава́цца ве́рным: ***Abide by your word*** Трыма́й сваё сло́ва

**ability** [əˈbɪləti] n., pl. **-ties** 1. здо́льнасьць, зда́тнасьць *f.*: ***the ability to think clearly*** здо́льнасьць я́сна ду́маць. 2. уме́льства *n.*, та́лент -у *m.*: ***ability of a carpenter*** сталя́рскае уме́льства

• ***abilities,*** pl. здо́льнасьці; разумо́выя здо́льнасьці: ***a man of abilities*** таленаві́ты чалаве́к

**abject** [ˈæbdʒekt] adj. 1. жа́ласны; мізэ́рны; убо́гі: ***in abject poverty*** у мізэ́рнай бядо́це. 2. нікчэ́мны, няго́дны: ***an abject flatterer*** нікчэ́мны лісьлі́вец. 3. нявóльніцкі: ***abject submission*** нявóльніцкае падпара́дкаваньне

**abjection** [æbˈdʒekʃən] n. прыніжэ́ньне, гнібе́ньне *n.*

**abjuration** [ˌæbdʒəˈreɪʃən] n. адрачэ́ньне пад прыся́гай

**abjure** [æbˈdʒʊr] v.t. 1. адрака́цца, зрака́цца, адмаўля́цца: ***to abjure power*** адрачы́ся ад ула́ды, зрачы́ся ўла́ды. 2. афіцы́йна адступа́цца: ***to abjure one's religion*** адступі́цца ад ве́ры

**ablation** [æbˈleɪʃən] n. 1. Surg. выдале́ньне, выраза́ньне, адраза́ньне *n.* 2. Geol. размыва́ньне, выпятрэ́ньне (*ска́лаў*); зно́шваньне *n.* (*ледаві́коў*). 3. Aeron. знос пярэ́дняй ча́сткі ракéты пры ўвахо́дзе ў атмасфэ́ру

**ablaze** [əˈbleɪz] – adv. у по́лымі, у агні́
– adj. 1. бліску́чы; я́ркі, зы́ркі. 2. узбу́джаны, распа́лены: ***to be ablaze*** пала́ць агнём, палымне́ць, гарэ́ць

**able** [ˈeɪbəl] adj. 1. які́ мо́жа, які́ ўме́е ***to be able:*** быць у ста́не; магчы́: ***Most little children are able to walk before they are able to talk*** Бальшыня́ малы́х дзяце́й мо́гуць хадзі́ць ране́й як гавары́ць; ***A cat is able to see in the dark*** Кот мо́жа ба́чыць у це́мры. 2. здо́льны, таленаві́ты; зда́тны: ***She is an able teacher*** Яна́ зда́тная наста́ўніца. 3. кваліфікава́ны, спра́ўны: ***an able seaman*** спра́ўны мара́к

**able-bodied** [ˌeɪbəlˈbɑ:dɪd] adj. фізы́чна зда́тны; здаро́вы, мо́цны

**ablet** [ˈæblət] n. Zool. верхаво́дка *f.*

**abloom** [əˈblu:m] adv., adj. у цьве́це, у кве́цені; квітне́ючы, цьвіту́чы

**ablush** [əˈblʌʃ] – adv. пачырване́ўшы, засаро́млена
– adj. пачырване́лы

**ablution** [əˈblu:ʃən] n. 1. умыва́ньне *n.* 2. абмыва́ньне *n.* (*рэлігі́йнае ачышчэ́ньне*)

**ably** [ˈeɪbli] adv. спры́тна, спра́ўна; уме́ла

**abnegate** [ˈæbnɪˌgeɪt] v.t. адмаўляць сабé; адмаўляцца, выракáцца

**abnegation** [ˌæbnɪˈgeɪʃən] n. самаадрачэ́ньне, адмаўлéньне; вырачэ́ньне *n.*

**abnormal** [æbˈnɔːrməl] adj. ненармáльны; нязвычáйны, ненатурáльны; анамáльны; нетыпóвы, нестандáртны

**abnormality** [ˌæbnɔːrˈmæləti] n., pl. **-ties** 1. ненармáльнасьць, анамáльнасьць; нязвы́чнасьць *f.* 2. нязвы́чная рэч *абó* здарэ́ньне

**aboard** [əˈbɔːrd] adv. 1. а) на карабéль (*на борт*); на самалёт, цягнíк. б) на караблí (*на бóрце*); у самалёце: ***to go aboard a train*** сéсьці ў цягнíк. 2. уздóўж (*карабля́ ці бéрагу*)

• ***All aboard!*** а) Усé сядáць! б) Гатóва! (усé сéлі)

**abode I** [əˈboʊd] n. жытлó *n.*; сялíба *f.*

**abode II** [əˈboʊd] v., *p.t, p.p. of* **abide**

**abolish** [əˈbɑːlɪʃ] v.t. касавáць, адмяня́ць: ***to abolish slavery*** скасавáць нявóльніцтва

**abolishment** [əˈbɑːlɪʃmənt] n. скасавáньне *n.*

**abolition** [ˌæbəˈlɪʃən] n. 1. касавáньне *n.* 2. Hist. скасавáньне нявóльніцтва нэ́граў

**abolitionist** [ˌæbəˈlɪʃənɪst] n. прыхíльнік скасавáньня: ***abolitionist theories of capital punishment*** тэóрыі прыхíльнікаў скасавáньня кáры сьмéрці. 2. Hist. абаліцыянíст -а *m.*, прыхíльнік скасавáньня нявóльніцтва нэ́граў

**A-bomb** [ˈeɪbɑːm] n. áтамная бóмба

**abominable** [əˈbɑːmɪnəbəl] adj. агíдны, гíдкі: ***the abominable odor of rotting garbage*** агíдны смурóд гнілы́х адкíдаў

**abominate** [əˈbɑːmɪneɪt] v.t. гíдзіцца; адчувáць агíду; ненавíдзець: ***to abominate unfairness*** ненавíдзець несправядлíвасьць. 2. не цярпéць, не вынóсіць: ***She abominates hot weather*** Янá ня цéрпіць гарачынí

**abomination** [əˌbɑːmɪˈneɪʃən] n. агíда, агíднасьць, мярзóта *f.*

**aboriginal** [ˌæbəˈrɪdʒənəl] adj. пракавéтны; тубы́льчы

**aborigine** [æbəˈrɪdʒəni] n. 1. аўтахтóн, абарыгéн, пракавéтнік -а *m.*; тубы́лец -льца *m.*, тубы́лька *f.*; тутэ́йшы -ага *m.* 2. абарыгéн -а *m.* (*у Аўстралíі*)

• ***aborigines*** pl. мясцóвая фáўна й флёра

**abort** [əˈbɔːrt] – v.i. 1. неданасíць, спаранíць; скíнуць (*пра жывёліну*). 2. Biol. спынíцца ў разьвіцьцí; занíкнуць. 3. сарвáцца, ня ўдáцца

– v.t. 1. зрабíць абóрт, спарóн. 2. ня вы́канаць задáньня; не давéсьці да канцá (*дóсьлед, задáньне*)

**abortion** [əˈbɔːrʃən] n. 1. спарóн -у, абóрт -у *m.* 2. пóўная няўдáча, раптóўны правáл. 3. Biol. а) недаразьвіцьцё óрганаў. б) недаразьвíты вóрган -а *m.*

**abortionist** [əˈbɔːrʃənɪst] n. асóба, якáя рóбіць абóрты (*нелегальна*)

**abortive** [əˈbɔːrtɪv] – adj. 1. заўчáсны. 2. няўдáлы; безвынікóвы, бясплённы: ***abortive effort*** дарэ́мныя намагáньні. 3. заўчáсна нарóджаны. 4. Biol. недаразьвíты, зачáткавы

– n. срóдак, які́ выклікáе спарóн

**abound** [əˈbaʊnd] v.i.1. быць у вялíкай кóлькасьці: ***Fish abound in the ocean*** У акія́не шмат ры́бы. 2. быць багáтым: ***The ocean abounds with fish*** Акія́н багáты ры́бай; ***abounding in water*** мнагавóдны, паўнавóдны

**about** [əˈbaʊt] – prep. 1. пра *кагó-штó*; аб *кім-чым*: ***a book about Belarus*** кніга пра Белару́сь; ***We talked about you*** Мы гавары́лі пра цябé. 2. каля́, ля *чагó*: ***Come about three o'clock*** Прыйдзí каля́ трэ́цяй гадзíны. 3. навóкал *чагó*: ***a fence about the garden*** плот навóкал гарóду. 4. пры *кім-чым*. 5. па *кім-чым*: ***children's toys scattered about the room*** дзіця́чыя цáцкі параскíданыя па пакóі; ***The dog ran about the yard*** Сабáка бéгаў па двары́

– adv. 1. блізу́; больш-менш: ***The bottle is about empty*** Пля́шка блізу́

пустáя; ***He is about my size*** Ён больш-менш майгó рóсту. 2. навóкал, наўкóла: ***to look about*** разглядáцца наўкóла; ***to turn about*** завярнýцца назáд. 3. зь мéсца на мéсца; тудьí-сюдьí: ***to shuffle papers about on a desk*** перакідáць зь мéсца на мéсца папéры на сталé. 4. у адварóтным кірýнку: ***to face about*** абярнýцца зáдам

• ***about to*** вось-вось, амáль

• ***up and about*** вярнýцца да звычáйных занятка́ў (*пасьля́ хварóбы*), быць акты́ўным

**about-face** [əˌbaʊtˈfeɪs] – n. паварóт на 180 грáдусаў: ***About face!*** Кругóм! (*вайскóвая камáнда*)

– v.i. павярнýцца на 180 грáдусаў, завярнýцца назáд

**about-turn** [əˌbaʊtˈtɜːrn] n. паварóт назáд: ***The expected about-turn in U.S. policy*** Чакáны паварóт у палíтыцы ЗША

**above** [əˈbʌv] – adv. 1. навéрх, угарý, угóру: ***stairs leading above*** схóды, што вядýць навéрх. 2. увéрсе, угары́. 3. ранéй; вышэ́й: ***from what was said above*** з тагó, што скáзана ранéй; ***as stated above*** як скáзана ранéй. 4. вышэ́йшы рáнгам, улáдай: ***to make an appeal to the court above*** апэлявáць да вышэ́йшага сýду

– prep. вышэ́й за, вышэ́й як: ***The elevator does not go above the third floor*** Ліфт ня йдзé вышэ́й за трэ́ці павéрх; ***above zero*** вышэ́й нуля́, над нулём. 2. над: ***a sword above his head*** меч над ягóнай галавóю; ***He kept his head above water*** Ён трымáў галавý над вадóю; ***A captain is above a sergeant*** Капітáн вышэ́йшы рáнгам за сяржáнта. 3. больш як, больш за што: ***Not above twenty dollars*** Ня больш, як двáццаць далярaў. 4. панад, над *чым*: ***The president should not be above the law*** Прэзыдэ́нт не павíнен быць па-над закóнам

– adj. вышэ́йназвáны; вышэ́йзгадáны; вышэ́й успóмнены: ***the above fact*** вышэ́йзгадáны факт

– n. вышэ́й напíсанае, ранéй скáзанае

• ***above all*** перш за ўсё: ***above all things*** перадусíм

• ***from above*** зьвéрху: ***an order from above*** загáд зьвéрху

**aboveboard** [əˈbʌvbɔːrd] – adv. адкры́та, сумлéнна

– adj. адкры́ты, сумлéнны

**abrade** [əˈbreɪd] v. 1. зьдзірáць; зьдзірáцца. 2. зразáць, сьцірáць, шліфавáць

**abrasion** [əˈbreɪʒən] n. 1. нацёртая рáна; задзíрына, намýліна *f.*: ***Abrasions of the skin sometimes heal slowly*** Задзíрыны чáсам гóяцца павóлі. 2. Geol. абрáзія *f.*; размы́тая вадóю глéба ці скалá

**abrasive** [əˈbreɪsiv] – adj. 1. абразíўны; шліфавáльны. 2. рэ́зкі, грýбы: ***an abrasive voice*** рэ́зкі гóлас

– n. абразíлў -ву *m.*, шліфавáльны матэрыя́л: ***Sandpaper is an abrasive*** Наждáчная папéра — абразíў

**abreast** [əˈbrest] adv., adj. пóплеч, пóруч: ***The soldiers marched four abreast*** Жаўнéры маршыравáлі па чацьвёра ў шэ́рагу; ***to keep abreast of/-with science*** ісьцí з пóступам навýкі; ***to keep abreast of the times*** ісьцí з дýхам чáсу, не адставáць ад жыцьця́

**abridge** [əˈbrɪdʒ] v.t. скарачáць: ***This long story can be abridged*** Гэ́тае даўгóе апавядáньне мóжна скарацíць. 2. абмяжóўваць; зьмяншáць, памяншáць: ***The rights of citizens must not be abridged without proper cause*** Ня мóжна абмяжóўваць правóў грамадзя́наў без адпавéднае прычы́ны. 3. пазбаўля́ць (*прáва, прывілéю*)

**abridged** [əˈbrɪdʒd] adj. скарóчаны: ***This book appears in an abridged form*** Гэ́тая кнíга выхóдзіць у скарачэ́ньні

**abridg(e)ment** [əˈbrɪdʒmənt] n. 1. скарачэ́ньне *n.* 2. зьмéншаньне, абмежавáньне *n.*: ***an abridgment of liberties*** абмежавáньне свабóдаў

**abroad** [əˈbrɔ:d] – adv. 1. за мяжóю; за мяжý: ***to go abroad for the summer*** паéхаць на лéта за мяжý. 2. далёка, шырóка, ва ўсé бакí, у рóзныя бакí: ***The news spread abroad*** вéстка разыйшлáся далёка

– n. замéжжа *n.*

• ***be all abroad*** а) быць далёкім ад сапрáўднасьці. б) быць зьбянтэ́жаным

**abrogate** [ˈæbrəgeɪt] v.t. касавáць; адхіляць (*закóн, звычáй*)

**abrogation** [ˌæbrəˈgeɪʃən] n. скасавáньне, адхілéньне *n.* (*прáўным áктам*)

**abrupt** [əˈbrʌpt] adj. 1. раптóўны, нечакáны: ***He made an abrupt turn to avoid hitting another car*** Ён зрабíў раптóўны паварóт, каб ня ўдáрыць другóе áўта. 2. рэ́зкі: ***He had an abrupt way of speaking*** Ён меў рэ́зкую манéру гаварыць. 3. урывісты: ***an abrupt style*** урывісты стыль. 4. вéльмі стрóмы, стрóмкі: ***The road made an abrupt rise up the hill*** Дарóга стрóмка паднялáся на ўзгóрак

**abruptly** [əˈbrʌptli] adv. неспадзявáна, рáптам; рэ́зка; стрóмка

**abscess** [ˈæbses] – n. скулá *f.*, нарыlў -ва *m.*, абсцэ́с -са *m.*

– v.i. нарывáць

**abscessed** [ˈæbsest] adj. з нарывам: ***an abscessed tooth*** нарыўны зýб

**abscissa** [æbˈsisə] n., Math. абсцыса *f.*

**abscission** [æbˈsiʃən] n. 1. Surg. адрэ́заньне *n.*, ампутáцыя *f.* 2. Bot. ападáньне *n.* (*пладóў, лістóў*)

**abscond** [əbˈskɑ:nd] v.i. уцячы ад сьлéдзтва; зьнíкнуць, хавáцца ад закóну: ***The dishonest cashier absconded with the bank's money*** Несумлéнны касíр зьнíк з грашыма з бáнку

**abscondee** [ˌæbskɑ:nˈdi:] n. той, хто хавáецца ад прáва; бяглlяк -якá *m.*, бяглячка *f.*

**absence** [ˈæbsəns] n. 1. адсýтнасьць *f.*: ***absence from work*** адсýтнасьць на прáцы, прагýл -у *m.*; ***leave of absence*** вóдпуск -у *m.* 2. пэрыяд адсýтнасьці: ***an absence of two weeks*** двутыднёвая адсýтнасьць. 3. недахóп -у *m.*, нястáча *f.*: ***Darkness is the absence of light*** Цéмра — гэ́та недахóп сьвятлá

• ***absence of mind*** няўвáга, няўвáжнасьць; расьсéянасьць, расьцярýшанасьць *f.*

**absent** [ˈæbsənt] – adj. 1. адсýтны: ***He is absent from school*** Ён прагуляў шкóлу. 2. няíсны. 3. бяздýмны, няўвáжлівы: ***absent look*** бяздýмны пóгляд

– v.t. [æbˈsent] быць непрысýтным; адсýтнічаць

**absentee** [ˌæbsənˈti:] n. 1. непрысýтнlы -ага *m.*, непрысýтная *f.* 2. прагýльнік -а *m.*

**absentee landlord** улáсьнік, які жывé ў íншым мéсцы

**absentee vote** гóлас за непрысýтнага ў дзень выбараў

**absenteeism** [ˌæbsənˈti:ˌɪzəm] n. 1. абсэнтэíзм -у *m.*, чáстая адсýтнасьць *f.*. 2. прагýльніцтва *n.*

**absently** [ˈæbsəntli] adv. няўвáжліва, няўвáжна; расьцярýшана

**absent-minded** [ˌæbsəntˈmaɪndɪd] adj. няўвáжлівы, расьцярýшаны; бяздýмны; няпáмятлівы

**absinth** [ˈæbsinθ] n. Bot. палын -у *m.*

**absinthe** [ˈæbsinθ] n. палынóўка *f.*, палынóвая настóйка

**absolute** [ˈæbsəlu:t] – adj. 1. пóўны; безумóўны; абсалютны: ***absolute ignorance*** пóўнае нéвуцтва, цямнóта; ***absolute rest*** пóўны спакóй; ***absolute truth*** безумóўная прáўда. 2. неабмежавáны: ***absolute authority*** неабмежавáная ўлáда. 3. пэ́ўны; надзéйны: ***absolute proof*** пэ́ўны дóвад. 4. Chem. чысты, без прымéшкі: ***absolute alcohol*** чысты сьпірт. 5. абсалютны: ***absolute humidity*** абсалютная вóгкасьць; ***absolute majority*** абсалютная бальшыня; ***absolute zero*** абсалютны нуль

– n. Philos. абсалют -у *m.*

**absolutely** [ˈæbsəlu:tli] adv. зусі́м; ца́лкам; абсалю́тна: ***Are you absolutely certain?*** Ці ты абсалю́тна пэ́ўны? 2. неабмежава́на; абсалю́тна: ***in an age when kings ruled absolutely*** у часо́х, калі́ каралі́ ме́лі неабмежава́ную ўла́ду

**absolution** [ˌæbsəˈlu:ʃən] n. 1. адпушчэ́ньне; разграшэ́ньне *n.*; абсалю́цыя *f.*: ***absolution of sins*** адпушчэ́ньне грахо́ў. 2. дарава́ньне *n.*: ***absolution from guilt*** дарава́ньне віны́. 3. апраўда́ньне *n.* (*ад віны́ ці абвінава́чаньня*). 4. звальнэ́ньне *n.* (*ад абавя́зкаў ці абяца́ньня*)

**absolutism** [ˈæbsəlu:tˌɪzəm] n. абсалюты́зм -у *m.*

**absolutist** [ˈæbsəlu:tɪst] – n. абсалюты́ст -а *m.*; прыхі́льнік абсалюты́зму
– adj. дэспаты́чны

**absolve** [əbˈzɑ:lv] v.t. 1. апра́ўдваць (*ад віны́ ці за́кіду*); звальня́ць ад ка́ры. 2. адпушча́ць грахі́. 3. вызваля́ць: ***absolve from promise, duty or obligation*** вы́зваліць ад абяца́ньня, абавя́зку або́ абавяза́ньня

**absorb** [əbˈzɔ:rb] v.t. 1. уця́гваць; убіра́ць; усмо́ктваць: ***A blotter absorbs ink*** Прамака́тка ўця́гвае чарні́ла; ***to absorb water*** убіра́ць ваду́. 2. асымілява́ць; паглына́ць: ***The United States has absorbed millions of immigrants*** Амэ́рыка асымілява́ла мільёны імігра́нтаў. 3. засво́йваць, разуме́ць: ***to absorb the full meaning of a remark*** зразуме́ць по́ўны сэнс заўва́гі. 4. захапля́ць усю́ ўва́гу, мо́цна ціка́віць: ***The circus absorbed the boys*** Цырк по́ўнасьцяй захапі́ў ува́гу хлапцо́ў. 5. паглына́ць: ***Anything black absorbs most of the light rays*** Усё чо́рнае паглына́е бальшыню́ сьветлавы́х про́мняў

**absorbency** [əbˈzɔ:rbənsi] n. паглына́льнасьць *f.*

**absorbent** [əbˈzɔ:rbənt] – adj. паглына́льны; прамака́льны, які́ ўсмо́ктвае: ***Absorbent paper is used to dry hands*** Прамака́льная папе́ра ўжыва́ецца да выціра́ньня рук
– n. паглына́льнік -а *m.*

**absorber** [əbˈzɔ:rbər] n. 1. паглына́льнік -а; абсо́рбэр -а *m.* 2. амартыза́тар -а *m.*: ***shock absorber*** амартыза́тар (*у машы́нах*)

**absorption** [əbˈzɔ:rpʃən] n. 1. абсо́рбцыя *f.*, паглына́ньне, усмо́ктваньне, уця́гваньне *n.*: ***absorption of light rays by black objects*** паглына́ньне сьветлавы́х про́мняў чо́рнымі прадме́тамі. 2. заглыбле́ньне *n. ў не́чым*; вялі́кае зацікаўле́ньне *n. не́чым*

**absorptive** [əbˈzɔ:rptɪv] adj. паглына́льны, абсарбцы́йны; прамака́льны

**abstain** [əbˈsteɪn] v.i. (from) стры́мвацца, устрымва́цца; адмаўля́цца *ад чаго́*: ***to abstain from smoking (alcohol)*** стры́мвацца ад курэ́ньня (алькаго́лю): ***When a vote was taken, several members abstained*** Калі́ галасава́лі, ко́лькі сябро́ў устрыма́лася

**abstainer** [əbˈsteɪnər] n. абстынэ́нт -а *m.*

**abstemious** [əbˈsti:miəs] adj. 1. стры́маны; памяркo´ўны (*асаблі́ва ў ядзе́ньні, піцьці́*). 2. ве́льмі про́сты, абмежава́ны: ***an abstemious diet*** ве́льмі абмежава́ная дые́та

**abstemiously** [əbˈsti:miəsli] adv. стры́мана, памярко́ўна

**abstention** [abˈstenʃən] n. 1. устрыма́ньне *n.* (*ад яды́, курэ́ньня*). 2. устрыма́ньне пры галасава́ньні: ***There were several abstentions from voting*** Было́ ко́лькі асо́баў, што ўстрыма́ліся пры галасава́ньні

**abstinence** [ˈæbstɪnəns] n. стры́манасьць *f.*, устрыма́ньне *n.*: ***abstinence from meat, sweets, or tobacco during Lent*** устры́маньне ад мя́са, ласу́нкаў або́ курэ́ньня ў ча́се вялі́кага по́сту

**abstinent** [ˈæbstɪnənt] adj. стры́маны, памярко́ўны; які́ адмаўля́е сабе́

**abstract** [ˈæbstrækt] – adj. 1. абстра́ктны, адця́гнены: ***Sweetness is abstract; sugar is concrete*** Сало́дкасьць — паня́цьце абстра́ктнае; цу́кар — канкрэ́тнае; ***abstract noun*** Gram. абстра́ктны назо́ўнік; ***abstract number***

абстра́ктны лік. 2. ідэа́льны; тэарэты́чны. 3. Art абстра́ктны
– v.t. [æbˈstrækt] 1. абстрагава́ць. 2. скарача́ць, рабі́ць рэзюмэ́, рабі́ць вы́піскі. 3. выця́гваць, аддзяля́ць, вылуча́ць
– n. 1. вы́цяг -у *m.*, каро́ткі зьмест, рэзюмэ́ *n.* 2. абстра́ктны твор маста́цтва
• ***in the abstract*** у тэо́рыі (*а ня ў пра́ктыцы*)

**abstracted** [æbˈstræktɪd] adj. заду́маны, паглы́блены ў ду́мкі; расьцяру́шаны, няўва́жлівы

**abstraction** [æbˈstrækʃən] n. 1. абстра́кцыя *f.*; абстра́ктнае паня́цьце *n.*: ***Redness, courage, hope, sorrow and length are abstractions*** Чы́рвань, адва́га, надзе́я, боль і даўжыня́ — абстра́ктныя паня́цьці. 2. абстрагава́ньне *n.* 3. адня́цьце, аддзяле́ньне *n.*: ***the abstraction of iron from ore*** аддзяле́ньне жале́за ад руды́. 3. заду́манасьць *f.*, расьцяру́шанасьць *f.*: ***In a fit of abstraction, he misplaced his glasses*** Праз расьцяру́шанасьць, ён не́дзе пакі́нуў свае́ акуля́ры. 4. твор абстра́ктнага маста́цтва

**abstractionism** [æbˈstrækʃənˌɪzəm] n. абстракцыяні́зм -у *m.*

**abstruse** [æbˈstru:s] adj. заблы́таны; ня́ясны, цьмя́ны, незразуме́лы

**absurd** [əbˈsɜ:rd] adj. абсу́рдны, бессэнсо́ўны, недарэ́чны, бязглу́зды; неразу́мны, сьмяхо́тны

**absurdity** [əbˈsɜ:rdəti] n., pl. **-ties** 1. недарэ́чнасьць *f.*; абсу́рд -у *m.*, бязглу́зьдзіца; лухта́ *f.*: ***Your explanation is an absurdity*** Тваё тлумачэ́ньне зусі́м недарэ́чнае. 2. дурно́та; неразу́мнасьць, бязглу́здасьць, абсу́рднасьць *f.*: ***the absurdity of superstition*** неразу́мнасьць забабо́наў

**abundance** [əˈbʌndəns] n. 1. доста́т|ак -ку *m.*; бага́цьце *n.* 2. вялі́кая ко́лькасьць; празьме́рнасьць *f.*, збы́т|ак -ку *m.*
• ***in abundance*** удо́сыць, мно́ства

**abundant** [əˈbʌndənt] adj. бага́ты, шчо́дры, вялі́кі: ***abundant harvest*** бага́ты ўраджа́й

**abuse** [əˈbju:z] – v.t. 1. злоўжыва́ць: ***Do not abuse power*** Не злоўжыва́й ула́дай. 2. зьдзе́кавацца, дрэ́нна абыхо́дзіцца. 3. псава́ць: ***Don't abuse your eyes by reading in a bad light*** Ня псуй вачэ́й, чыта́ючы пры благі́м сьвятле́. 4. зьневажа́ць, абража́ць
– n. [əˈbju:s] 1. злоўжыва́ньне *n.* 2. абра́за; зьнява́га *f.* 3. зьдзе́кваньне *n.*; зьдзек -у *m.*:***abuse of a helpless prisoner*** зьдзек над бездапамо́жным вя́зьнем

**abusive** [əˈbju:sɪv] adj. 1. абра́зьлівы, зьнява́жлівы; рэ́зкі: ***abusive words*** абра́зьлівыя сло́вы; ***abusive language*** ла́янка. 2. які́ дрэ́нна абыхо́дзіцца. 3. няпра́вільна ўжы́ты

**abusiveness** [əˈbju:sɪvnəs] n. абра́зьлівасьць, зьнява́жлівасьць *f.*

**abut** [əˈbʌt] v.i. 1. прытыка́цца; прыляга́ць: ***The sidewalk abuts on the street*** Хо́дзішча прытыка́ецца да ву́ліцы. 2. стыка́цца; межава́ць: ***His land abuts upon mine*** Яго́ная зямля́ мяжу́е з маёю

**abutment** [əˈbʌtmənt] n. 1. пята́ *f.* (*апо́ра а́ркі або́ мо́сту*). 2. суты́к -у *m.*

**abuttal** [əˈbʌtəl] n. прытыка́ньне *n.*
• ***abuttals,*** pl. пагранí чная паласа́, узьме́жжа *n.*, мяжа́ *f.*

**abysm** [əˈbɪzəm] n. *гл.* **abyss**

**abysmal** [əˈbɪzməl] adj. 1. бязьдо́нны; ве́льмі глыбо́кі. 2. Informal жахлі́вы, права́льны: ***The system of teaching was abysmal*** Сыстэ́ма навуча́ньня была́ на ве́льмі ніzкі́м узро́ўні

**abyss** [əˈbɪs] n. 1. прадо́ньне *n.*; бе́здань *f.*, бязьдо́ньне *n.*; про́рва *f.* 2. Bibl. пе́ршабы́тны бязла́д

**abyssal** [əˈbɪsəl] adj. глыбі́нны; глыбакаво́дны: ***an abyssal mollusk*** глыбакаво́дны малю́ск

**Abyssinian** [ˌæbɪˈsiniən] – n. абісы́н|ец -ца *m.*, абісы́нка *f.*
– adj. абісы́нскі

**acacia** [əˈkeɪʃə] n., Bot. акáцыя *f.*

**academic** [ˌækəˈdemɪk] – adj. 1. акадэмíчны; навукóвы: ***academic research*** навукóвыя дасьлéдваньні. 2. тэарэтычны: ***an academic question*** тэарэтычнае пытáньне

– n. студэнт *абó* прафэсар унівэрсытэту

**academician** [əˌkædəˈmɪʃən] n. акадэмік -а *m.*, сябра акадэміі

**academy** [əˈkædəmi] n., pl. **-mies** 1. акадэмія *f.* 2. прывáтная сярэдняя шкóла. 3. спэцыялізавáная навучáльная ўстанова: ***military academy*** ваéнная акадэмія; ***academy of music*** музычная акадэмія

• ***the Academy*** сад блізý старажытных Атэнаў, дзе вучыў Плятóн

**accede** [əkˈsi:d] v.i. 1. згаджáцца; саступáць: ***Please accede to my request*** Калí ляска, згадзéцеся на маю прóсьбу. 2. (to) атрымáць (*ула́ду, паса́ду*): ***When the king died, his oldest son acceded to the throne*** Калí карóль памёр, ягóны старэйшы сын заняў трон. 3. далучáцца: ***Our government acceded to the treaty*** Наш урáд далучыўся да дамóвы

**accelerate** [əkˈseləreɪt] – v.t. паскарáць: ***to accelerate recovery*** паскóрыць выздараўлéньне

– v.i. павялíчваць хýткасьць: ***The train accelerated suddenly*** Цягнíк рáптам павялíчыў хýткасьць

**acceleration** [əkˌseləˈreɪʃən] n. паскарэньне *n.*

**acceleration of gravity** паскарэньне зямным прыцягнéньнем

**accelerative** [əkˌseləˈreɪtɪv] adj. паскарáльны, прысьпяшáльны

**accelerator** [əkˈseləreɪtər] n. 1. паскарáльнік -а, аксэлерáтар -а *m.* (*у аўце*). 2. Chem. каталізáтар -у *m.*

**accent** [ˈæksent] – n. 1. нáціск -у *m.* 2. вымóва *f.*; акцэнт -у *m.*: ***He speaks English with a Belarusian accent*** Ён гавóрыць па-ангéльску зь беларýскім акцэнтам

– v.t. [ækˈsent] 1. вымаўляць з нáціскам. 2. стáвіць нáціскі (*на пісьмé, у гýтарцы*). 3. падкрэсьліваць: ***Throughout his speech the President accented the gravity of the situation*** На працягý свaé прамóвы прэзыдэнт падкрэсьліваў павáжнасьць сытуáцыі

• ***accents,*** pl. а) тон гóласу: ***She spoke in tender accents*** Янá гаварыла далікáтным гóласам. б) мóва *f.*, слóвы *pl.*

**accentual** [əkˈsentʃuəl] adj. 1. нáціскавы. 2. танíчны: ***accentual poetry*** танíчная паэзія

**accentuate** [əkˈsentʃueɪt] v.t. 1. падкрэсьліваць: ***The girl's national costume accentuated her beauty*** Нарóдны строй дзяўчынкі падкрэсьліваў яé прыгажóсьць. 2. вымаўляць з нáціскам. 3. стáвіць знáкі нáціску. 4. ускладняць: ***The problem is accentuated by a shortage of teachers*** Праблéма ўскладняецца недахóпам настáўнікаў

**accept** [əkˈsept] – v.t. 1. прымáць: ***I accept your gift gratefully*** Прымáю ваш падарýнак з удзячнасьцяй. 2. згаджáцца, пагаджáцца: ***to accept a proposal*** згадзíцца на прапанóву; ***to accept the fact*** пагадзíцца з фáктам. 3. прызнавáць праўдзíвым, вéрыць: ***The teacher won't accept your excuse*** Настáўнік не павéрыць тваёй адгавóрцы; ***to accept a doctrine*** прызнáць дактрыну праўдзíвай. 4. залічáць: ***The teacher has accepted my paper*** Настáўнік залічыў маю прáцу. 5. акцэптавáць (*падпісáць і згадзíцца заплацíць*) вэксаль

– v.i. згаджáцца *на што*: ***I was invited and I accepted*** Мянé запрасíлі, і я згадзíўся

**acceptable** [əkˈseptəbəl] adj. 1. прымáльны, якí мóжна прыняць; адпавéдны, пажадáны: ***Flowers are an acceptable gift to a sick person*** Квéткі — адпавéдны падарýнак для хвóрага. 2. нядрэнны: ***an acceptable performance*** нядрэнны выступ

**acceptance** [ək'septəns] n. 1. прыма́ньне *n.* 2. зго́да *f.* 3. прыхі́льнае прыймо́, прызна́ньне, ухвале́ньне. 3. Com. a) акцэ́пт -у *m.* (*вэ́ксаля*). б) акцэптава́ны вэ́ксаль

**acceptation** [ˌæksep'teɪʃən] n. 1. агу́льнапрыня́тае зна́чаньне, ужыва́ньне: ***It is more important to know the acceptation of a word than its derivation*** Важне́й ве́даць зна́чаньне сло́ва, як яго́нае пахо́джаньне. 2. ухвале́ньне *n.*

**accepted** [ək'septɪd] adj. агу́льнапрыня́ты, традыцы́йны

**access** ['ækses] n. 1. до́ступ -у; дае́зд -у, падыхо́д -у *m.*; пра́ва на пад'е́зд, на ўвахо́д, на карыста́ньне: ***access to a mountain town*** до́ступ да го́рнага мястэ́чка. 2. спо́саб ці сро́дак до́ступу: ***A ladder provided the only access to the attic*** Драбі́на была́ адзі́ным сро́дкам до́ступу на гары́шча. 3. надыхо́д -у *m.*: ***the access of winter*** надыхо́д зімы́. 4. ата́ка *f.*, пры́ступ -у *m.*: ***the access of her asthma in the spring*** е́йныя пры́ступы а́стмы ўве́сну. 5. Figur. вы́бух -у *m.* (*гне́ву, ша́лу, ра́дасьці*). 6. пабо́льшаньне *n.*; дада́тlак -ку *m.*

**accessibility** [əkˌsesə'bɪləti] n. дасту́пнасьць, успрыма́льнасьць *f.*

**accessible** [ək'sesəbəl] adj. 1. дасту́пны. 2. лёгкадасту́пны; з до́брым дае́здам: ***Tools readily accessible on an open rack*** Прыла́ды лёгкадасту́пныя на адкры́тай палі́цы; ***a very accessible market*** ры́нак зь ве́льмі до́брым дае́здам. 3. ная́ўны, ве́дамы: ***Not many facts about the kidnapping were accessible*** Няшмат было́ ве́дамых фа́ктаў пра выкрадзе́ньне

• ***accessible to*** пада́тны на ўплы́ў, успрыйма́льны

**accession** [ək'seʃən] n. 1. уступле́ньне *n.* (*на трон*), прыхо́д -у *m.* (*да ўла́ды*); атрыма́ньне *n.* (*стано́вішча, пра́цы*). 2. пры́рост -у; дада́тlак -ку, набы́тlак -ку *m.*: ***new library accessions*** но́выя набы́ткі бібліятэ́кі. 3. до́ступ -у *m.*

**accessory** [ək'sesəri] – n., pl. **-ries** 1. дада́тlак -ку *m.*; дапамо́жная рэч або́ дэта́ль, акцэсуа́р -у *m.*, прынале́жнасьць *f.*: ***A heater is a useful accessory to a car*** Абаграва́льнік — кары́сны дада́так у а́ўце; ***All the accessories to her costume — hat, gloves, shoes, and purse — were perfectly matched*** Усе́ дада́ткі да е́йнага гарніту́ра — капялю́ш, пальча́ткі, чараві́кі й то́рбачка — былі́ даскана́ла падабра́ныя. 2. Law памага́ты ў злачы́нстве

– adj. дадатко́вы, дапамо́жны

• ***accessory after the fact*** уско́сны саўдзе́льнік (*які́ хава́е злачы́нца або́ дапамага́е яму́ ўцячы́*)

• ***accessory before the fact*** непасрэ́дны саўдзе́льнік (*падбухто́рнік*)

**accident** ['æksɪdənt] n. 1. нешчасьлі́вы вы́падак, здарэ́ньне *n.*: ***an automobile accident*** аўтамабі́льная ава́рыя. 2. нечака́ны вы́падак: ***Their meeting was an accident*** Іхная сустрэ́ча была́ вы́падкам

• ***by accident*** выпадко́ва, вы́падкам: ***We met by accident*** Мы сустрэ́ліся выпадко́ва

**accidental** [ˌæksɪ'dentəl] adj. 1. выпадко́вы. 2. неісто́тны

**accidentally** [ˌæksɪ'dentəli] adv. 1. вы́падкам, выпадко́ва. 2. незнаро́к, міжво́льна, ненаўмы́сна

**accipiter** [æk'sɪpətər] n. я́страб -а *m.*

**acclaim** [ə'kleɪm] – v.t. 1. віта́ць во́плескамі; мо́цна хвалі́ць. 2. абвяшча́ць

– v.i. ухваля́ць; бу́рна пля́скаць

– n. ухва́ла *f.*, во́плескlі -аў *pl.*

**acclamation** [ˌæklə'meɪʃən] n. акляма́цыя *f.*, ухва́льныя во́клічы *pl.*: ***elected by acclamation*** вы́браны праз акляма́цыю, без галасава́ньня

**acclimate** ['æklɪmeɪt] v. прыстасо́ўваць, прыстасо́ўвацца (*да но́вага клі́мату, асяро́дзьдзя або́ ўмо́ваў*); акліматызава́ць, акліматызава́цца

**acclimation** [ˌæklɪ'meɪʃən] n. акліматыза́цыя *f.*

**acclimatization** [əˌklaɪmətəˈzeɪʃən] n. акліматызава́ньне n. (*чалаве́кам*)

**acclimatize** [əˈklaɪmətaɪz] v. акліматызава́ць; акліматызава́цца

**acclivity** [əkˈlɪvəti] n., pl. **-ties** пад'ём -у m. (*даро́гі*)

**accolade** [ˈækəleɪd] n. 1. пахвала́ f. 2. Hist. пасьвячэ́ньне ў ры́цары

**accommodate** [əˈkɑ:mədeɪt] – v.t. 1. зьмяшча́ць; мець ме́сца: ***This plane is large enough to accommodate 120 passengers*** Гэ́ты самалёт дастатко́ва вялі́кі, каб зьмясьці́ць 120 пасажы́раў. 2. рабі́ць паслу́гу, прыслу́жвацца *каму́*. 3. дава́ць прыту́лак, разьмяшча́ць. 4. дава́ць пазы́ку. 5. дастасо́ўваць: ***We must accommodate ourselves to our changed circumstances*** Мы му́сім дастасава́цца да на́шых зьме́неных абста́вінаў. 6. сьціша́ць; суніма́ць: ***He tried to accommodate the dispute between the friends*** Ён стара́ўся суня́ць спрэ́чку памі́ж сябра́мі
– v.i. 1. дастасо́ўвацца. 2. пагаджа́цца; суніма́цца

**accommodating** [əˈkɑ:mədeɪtɪŋ] adj. прыслу́жлівы; згаво́рлівы

**accommodation** [əˌkɑ:məˈdeɪʃən] n. 1. паме́шканьне і (*ча́сам*) сталава́ньне. 2. дапамо́га; паслу́га; выго́да f. 3. прыстасава́ньне n.: ***The accommodation of our desires to a smaller income took some time*** Прыстасава́ньне на́шых жада́ньняў да ме́ншых прыбы́ткаў заняло́ пэ́ўны час. 4. узгадне́ньне, пагадне́ньне n.; кампрамі́с -у m.: ***The bankrupt and the men to whom he owed money arranged an accommodation*** Банкру́т і лю́дзі, каму́ ён быў ві́нен гро́шы, дайшлі́ да пагадне́ньня. 5. паслу́га f. 6. пазы́ка f. 7. Physiol. прыстасава́насьць f. (*напр. во́ка*)

**accompaniment** [əˈkʌmpənimənt] n. 1. дада́т|ак -ку m.; суправаджэ́ньне n., спадаро́жнік -а m.: ***Sour cream is a usual accompaniment to pancakes*** Сьмята́на звыча́йны дада́так да бліно́ў; ***Destruction and suffering are the accompaniments of war*** Разбурэ́ньне й цярпе́ньні — спадаро́жнікі вайны́. 2. Mus. акампанімэ́нт -у m.

**accompanist** [əˈkʌmpənɪst] n. акампані́ст -а m., акампані́стка f.

**accompany** [əˈkʌmpəni] v. **-nied, -nying** 1. суправаджа́ць; далуча́цца; право́дзіць: ***May we accompany you on your walk?*** Ці мо́жам прайсьці́ся з ва́мі? Ці мо́жам далучы́цца да вас на прахо́дку?; ***to accompany a friend to the airport*** праве́сьці сябро́ўку (сябра) на лётнішча; ***Fire is accompanied by heat*** Аго́нь суправаджа́ецца гарачынёю. 2. Mus. акампаніява́ць

**accomplice** [əˈkɑ:mpləs] n. супо́льнік -а m., саўдзе́льнік у злачы́нстве: ***an accomplice in the murder*** саўдзе́льнік у забо́йстве

**accomplish** [əˈkɑ:mplɪʃ] v.t. 1. дасяга́ць, выко́нваць (*абяца́ньне, плян*): ***Did you accomplish your purpose?*** Ці вы дасягну́лі сваёй мэ́ты? 2. рабі́ць; канча́ць: ***John can accomplish more in a day than any other boy in his class*** Янка за дзень мо́жа зрабі́ць больш, чым які́ і́ншы хлапе́ц у кля́се

**accomplished** [əˈkɑ:mplɪʃt] adj. 1. вы́каканы, зро́блены; зако́нчаны. 2. высо́какваліфікава́ны; выда́тны, таленаві́ты, дасканáлы: ***an accomplished surgeon*** выда́тны хіру́рг. 3. до́бра вы́хаваны *або* адукава́ны: ***an accomplished host*** ве́тлівы гаспада́р

**accomplishment** [əˈkɑ:mplɪʃmənt] n. 1. дасягне́ньне, выкана́ньне, завяршэ́ньне n.: ***The teacher was proud of her pupils' accomplishments*** Наста́ўніца ганары́лася дасягне́ньнямі сваі́х ву́чняў. 2. дасягне́ньне, зьдзе́йсьненьне n.: ***The accomplishment of his purpose took three months*** Дасягне́ньне мэ́ты заняло́ яму́ тры ме́сяцы

**accord** [əˈkɔ:rd] – v.i. быць у зго́дзе, згаджа́цца, пагаджа́цца: ***His account of the accident accords with yours***

Ягóны раскáз пра вы́падак згаджáецца з тваíм

– v.t. удзяляць; выкáзваць: ***to accord praise for good work*** вы́казаць пахвалý за дóбрую прáцу

– n. 1. згóда *f.*; сулáдзьдзе *n.*, сулáднасьць; сугýчнасьць, гармóнія *f.* 2. умóва, дамóва *f.*, пагаднéньне *n.*: ***an accord with France*** умóва з Фрáнцыяй. 3. Law дабраахвóтнае пагаднéньне *m.*. 4. гармóнія *f.*, сулáдзьдзе кóлераў *або* тóнаў

• ***in accord*** у згóдзе, згóдна: ***to live in accord*** жыць у згóдзе

• ***of one's own accord*** із сваé сóбскай вóлі, ахвóты

• ***with one accord*** аднадýмна, аднамы́сна

**accordance** [əˈkɔ:rdəns] n. згóднасьць; адпавéднасьць *f.*: ***in accordance with*** адпавéдна да чагó; згóдна з *чым*. 2. надáньне, даравáньне *n.*: ***accordance of privilege*** надáньне прывілéю

**accordant** [əˈkɔ:rdənt] adj. згóдны *з чым*, адпавéдны *чамý*

**according** [əˈkɔ:rdɪŋ] adv. 1. a) павóдле *чагó*; згóдна *з чым*: ***according to the law*** згóдна з закóнам; ***according to this book*** павóдле гэ́тае кнíгі. 2. залéжна, як; накóлькі; адпавéдна да: ***according as we have the courage*** залéжна ад тагó, накóлькі ў нас адвáгі

**accordingly** [əˈkɔ:rdɪŋli] adv. адпавéдна; такíм чы́нам; дзéля гэ́тага: ***to act accordingly*** захóўвацца адпавéдна

**accordion** [əˈkɔ:rdiən] n. акардыён -а *m.*

**accordionist** [əˈkɔ:rdiənɪst] n. акардыянíст -а, гарманíст -а *m.*; акардыянíстка, гарманíстка *f.*

**accost** [əˈkɔ:st] v.t. затры́мваць *кагó*, загавóрваць *да кагó*, прычапля́цца *да кагó*: ***I was accosted by a stranger*** Мяне́ зачапíў незнаёмы

**accouche** [əˈku:ʃ] v.i. прымáць рóды

**accouchement** [əˈku:ʃmɑ:nt] n. 1. рóд|ы -аў *pl. only.* 2. прыняццё рóдаў

**account** [əˈkaʊnt] – n. 1. раскáз -у *m.*, апісáньне *n.*; падрабя́зная справаздáча; тлумачэ́ньне *n.*: ***Please give me an account of everything*** Калí лáска, раскажэ́це мне пра ўсё; ***satisfactory account*** задавальня́ючае, дастаткóвае тлумачэ́ньне. 2. рахýн|ак -ку *m.* (*у банку*): ***current account*** бягýчы рахýнак; ***joint account*** супóльны рахýнак. 3. лíк -ку, падлíк -у, рахýн|ак -ку *m.*, разрахýн|ак -ку *m.*: ***to keep a written account of one's spending*** запíсваць сваé выдáткі. 4. вáжнасьць, вáртасьць; кары́сьць *f.*: ***of no account*** бяз знáчаньня (вáртасьці); ***to be of little account*** мець малýю вáртасьць; ***To turn one's time to good account*** Дóбра вы́карыстаць свой час.

– v.i. 1. (for) тлумáчыць: ***This accounts for his behavior*** Гэ́тым тлумáчацца ягóныя павóдзіны. 2. здавáць справаздáчу: ***You will have to account to the auditor*** Табé трэ́ба бýдзе даць справаздáчу аўды́тару

• ***bring to account*** паклíкаць да адкáзнасьці *кагó*

• ***by all accounts*** на агýльную дýмку

• ***call to account*** запатрабавáць тлумачэ́ньня

• ***give a good (bad) account of oneself*** дóбра (блáга) сябé зарэкамэндавáць

• ***keep account of*** вéсьці рахýнак

• ***of no account*** неістóтны

• ***of some account*** вáжны, істóтны, аўтарытэ́тны

• ***on account of*** з прычы́ны, дзéля *кагó-чагó*: ***The game was put off on account of rain*** Гульня́ былá адклáдзеная дзéля дажджý

• ***on my (his) account*** дзéля мяне́ (ягó): ***Don't stay home on my account*** Не сядзí дóма дзéля мяне́

• ***on no account*** ні ў я́кім рáзе

• ***on one's own account*** на сваю́ ры́зыку на сваю́ адкáзнасьць

• ***take account of*** а) брáць пад увáгу *што*, лíчы́цца *з чым*. б) заўважáць; улíчваць

• ***take into account*** лічы́цца з *кім-чым*, браць пад ува́гу
• ***turn to account*** павярну́ць на сваю́ карысьць
**accountability** [əˌkaʊntəˈbɪləti] n. адка́знасьць, справазда́чнасьць *f.*
**accountable** [əˈkaʊntəbəl] adj. 1. адка́зны (*пе́рад кім за што*): ***Each person is accountable for his own work*** Ко́жны чалаве́к адка́зны за сваю́ пра́цу; ***He is accountable to his superior*** Ён адка́зны пе́рад сваі́м нача́льствам. 2. вытлумача́льны: ***His bad temper is easily accountable: he has had a toothache all day*** Яго́ны благі́ настро́й лёгка вы́тлумачыць: уве́сь дзень яму́ бале́ў зуб
**accountancy** [əˈkaʊntənsi] n. пра́ца бухга́льтара, рахункаво́да; вядзе́ньне раху́нкаў, рахункаво́дзтва
**accountant** [ əˈkaʊntənt] n. бухга́льтар, рахункаво́д -а *m.*
**accounting** [əˈkaʊntɪŋ] n. рахункаво́дзтва *n.*, бухга́льтарская спра́ва
**accouter** [əˈku:tər] v.t. экіпава́ць, надзяля́ць рыштýнкам: ***Knights were accoutered in armor*** Ры́цары насі́лі па́нцыр
**accouterments** [əˈku:tərmənts] n., pl. 1. жаўне́рскі рыштýн|ак -ку *m.* (*за вы́няткам збро́і й адзе́ньня*): ***A belt, blanket and knapsack are parts of a soldier's accouterments*** Папру́га, ко́ўдра й напле́чнік — ча́сткі жаўне́рскага рыштýнку. 2. асабі́стыя рэ́чы *pl.*
**accredit** [əˈkredɪt] v.t. 1. (with) прыпі́сваць *каму́ што*; прызнава́ць: ***I accredited him with more sense than he deserves*** Я прызна́ў яму́ больш глу́зду, чым ён заслуго́ўвае; ***We accredit the invention of the telephone to Alexander Graham Bell*** Вынахо́дзтва тэлефо́ну мы прыпі́сваем Аляксáндру Грэ́ему Бэ́лу. 2. упаўнава́жваць, прызнача́ць: ***The president of the club will accredit you as his assistant*** Старшыня́ клю́бу прызна́чыць Вас сваі́м засту́пнікам. 3. акрэдытава́ць, прызнача́ць дыпляматы́чным прадстаўніко́м: ***An ambassador is accredited as the representative of his country in a foreign land*** Амбаса́дар прызнача́ецца дыпляматы́чным прадстаўніко́м свае́ дзяржа́вы ў заме́жным краі́. 4. прыма́ць за праўдзі́вае; дава́ць ве́ру; давяра́ць. 5. агу́льна *або́* афіцы́йна прыма́ць, рэкамэндава́ць
**accreditation** [əˌkredɪˈteɪʃən] n. акрэдыта́цыя *f.*
**accredited** [əˈkredɪtɪd] adj. агу́льна *або́* афіцы́йна прызна́ны: ***an accredited authority in mathematics*** агу́льна-прызна́ны аўтарытэ́т у матэма́тыцы: ***accredited school*** шко́ла прызна́ная адпаве́днымі ўла́дамі
**accrete** [əˈkri:t] – v.i. 1. зраста́цца. 2. нараста́ць. 3. выклікáць зраста́ньне
– adj. Bot. зро́слы
**accretion** [əˈkri:ʃən] n. 1. нараста́ньне *n.*; прыро́ст -у *m.*, павелічэ́ньне паме́рам. 2. зраста́ньне *n.* 3. прыро́ст -у; дада́т|ак -ку *m.* 4. Geol. нано́с зямлі́
**accrual** [əˈkru:əl] n. нараста́ньне *n.*; прыро́ст -у *m.*: ***Money left in a savings bank increases by the accrual of interest*** Гро́шы, пакла́дзеныя ў банк, растýць у вы́ніку нараста́ньня працэ́нтаў
**accrue** [əˈkru:] v.i. 1. выраста́ць; бо́льшыцца. 2. нараста́ць (*пра працэ́нты*)
• ***accrued income*** заро́блены, але́ не атрыма́ны прыбы́так
• ***accrued interest*** нaро́слыя, але́ ня вы́плачаныя працэ́нты
**acculturation** [əˌkʌltʃəˈreɪʃən] n. акульту́рацыя *f.*, засвае́ньне і́ншай культу́ры
**accumulate** [əˈkju:mjəleɪt] – v.t. 1. зьбіра́ць; назапа́шваць; набыва́ць; памнажа́ць: ***He accumulated a fortune by hard work*** Цяжко́ю пра́цаю ён сабра́ў бага́цьце
– v.i. набіра́цца; нагрува́шчвацца; зьбіра́цца: ***Dust and cobwebs accu-***

***mulated in the empty house*** Пыл і павуціньне назьбіраліся ў пустым доме

**accumulation** [əˌkju:mjəˈleɪʃən] n. 1. нагрувашчаньне; назапашваньне, зьбіраньне, памнажэньне; набіраньне *n.* 2. прырост -у *m.* (*капіталу*)

**accumulative** [əˈkju:mjəleɪtɪv] adj. нарастальны

**accumulator** [əˈkju:mjəleɪtər] n. акумулятар-а *m.*

**accuracy** [ˈækjərəsi] n. акуратнасьць, дакладнасьць *f.*

**accurate** [ˈækjərət] adj. акуратны, дакладны: ***You must be accurate in arithmetic*** У арытмэтыцы трэба быць дакладным

**accursed** [əˈkɜ:rst] adj. 1. пракляты. 2. асуджаны, зганьбаваны

**accusal** [əˈkju:zəl] n. абвінавачаньне *n.*

**accusation** [ˌækjuˈzeɪʃən] n. 1. абвінавачаньне *n.* 2. закід -у *m.*: ***What is the accusation against me?*** Якое супроць мяне абвінавачаньне?

**accusative** [əˈkju:zətɪv] n., Gram. вінавальны склон

**accusatory** [əˈkju:zətɔ:ri] adj. вінавальны, вінаваўчы, абвінаваўчы: ***an accusatory glance*** вінаваўчы позірк

**accuse** [əˈkju:z] v.t. 1. абвінавачваць, вінаваціць:***to accuse a person of theft*** абвінавачаць чалавека ў зладзействе. 2. звальваць віну, вінаваціць

**accused** [əˈkju:zd] adj. абвінавачан|ы -ага *m.*, абвінавачаная *f.*

**accuser** [əˈkju:zər] n. абвінаваўца *m. & f.*

**accustom** [əˈkʌstəm] v.t. (to) прызвычайваць, прывучаць

**accustomed** [əˈkʌstəmd] adj. прывыклы, звычайны: ***Take your accustomed place*** Займі сваё звычайнае месца

• ***accustomed to*** прызвычаены *да чаго*: ***He was accustomed to hard work*** Ён быў прызвычаены да цяжкое працы

**ace** [eɪs] – n. 1. вочка *n.* (*у гульні*). 2. туз -за *m.* (*карта*). 3. неадбіўная падача (*у тэнісе*). 4. ас -а *m.*, майст|ар -ра *m.* (*асабл. лётчык*). 5. Figur. крыха *f.*: ***not an ace*** ані крыхі; ***within an ace*** на валасок ад, ледзь не

– v.t. зарабіць пункт у гульні

**acerbate** [ˌæsərˈbeɪt] v.t. 1. рабіць кіслым, даўка-кіслым, горкім. 2. Figur. злаваць; раздражняць; выклікаць горыч

**acerbic** [əˈsɜ:rbɪk] adj. 1. кіслы, даўкі: ***an acerbic substance*** кіслае рэчыва. 2. Figur. рэзкі, зьедлівы

**acerbity** [əˈsɜ:rbəti] n., pl. **-ties** 1. гаркаватая кісьліня; даўкасьць *f.* 2. Figur. зьедлівасьць, рэзкасьць *f.*

**acetate** [ˈæsəteɪt] n. 1. Chem. ацэтат -у *m.* 2. ацэтатнае валакно *n.*

**acetic** [əˈsi:tɪk] adj. Chem. воцатны: ***acetic acid*** воцатная кіслата

**acetification** [əˌsɪtɪfəˈkeɪʃən] n. ператвараньне ў воцат *або* воцатную кіслату

**acetify** [əˈsetɪfaɪ] v.t. **-fied, -fying** Chem. ператварацца ў воцат або воцатную кіслату

**acetone** [ˈæsətoun] n. ацэтон -у *m.*

**acetous** [ˈæsətəs] adj. 1. воцатны. 2. кіслы

**acetylene** [əˈsetəli:n] n. ацэтылен -у *m.*

**Achaean** [əˈki:ən] – adj. ахейскі

– n. ахе|ец -йца *m.* (*грэк*)

**ache** [eɪk] – n. боль (*працяжны, тупы*): ***I have a stomach ache*** мне баліць жывот

– v.i. 1. балець; тужыць, шчымець болем (*сэрца, душа*): ***My back aches*** Мне баліць сьпіна. 2. Informal прагнуць; моцна хацець: ***During the hot days we ached to go swimming*** Гарачымі днямі нам моцна хацелася ісьці плаваць; ***She aches for home*** Яна моцна сумуе па хаце

• ***aches and pains*** болі й недамаганьні

**achieve** [əˈtʃi:v] v.t. 1. рабіць; выконваць: ***Did you achieve all that you expected to today?*** Ці ты зрабіў сёньня ўсё тое, што спадзяваўся? 2. дасягаць; здабываць: ***He achieved fame as a swimmer*** Ён здабыў славу плыўца

**achievement** [əˈtʃi:vmənt] n. 1. дасягненьне *n.*: ***the achievement of one's***

***aim*** дасягне́ньне свае́ мэ́ты. 2. здабы́т|ак -ку; по́сьпех -у *m.*: ***It was a great achievement*** Гэ́та было́ вялі́кім здабы́ткам; ***achievement test*** экза́мен пасьпяхо́васьці

**Achillean** [ˌækɪˈli:ən] adj. Myth. Ахіле́саў

**Achilles** [əˈkɪli:z] n. Ахіле́с -а *m.*; ***Achilles' heel*** ахіле́сава пята́

**aching** [ˈeɪkɪŋ] adj. балю́чы, шчымлі́вы

**achromatic** [ˌækrəˈmætɪk] adj. 1. ахраматы́чны. 2. бяско́лерны

**achromatism** [eɪˈkroumәˌtɪzəm] n. 1. ахраматы́зм -у *m.* 2. бяско́лернасьць *f.*

**achy** [ˈeɪkɪ] adj. балю́чы, по́ўны бо́лю

**acid** [ˈæsɪd] – n. 1. кі́сьліна *f.*; кі́слае рэ́чыва *n.*. 2. Chem. кіслата́ *f.*

– adj. 1. кі́слы; сква́шаны; во́йстры: ***Lemon is an acid fruit*** Лі́мон — кі́слы фрукт. 2. Figur. зло́сны, во́йстры, зьдзе́клівы: ***an acid tongue*** во́йстры язы́к; ***acid looks*** кі́слая мі́на. 3. Chem. кісло́тны; кі́слы: ***acid radical*** кісло́тны радыка́л

**acidness** [ˈæsɪdnəs] n. кісло́тнасьць, кісьліня́ *f.*

**acid-fast** [ˌæsɪdˈfæst] adj. кісло́тнатрыва́лы (*ко́лер*)

**acidic** [əˈsɪdɪk] adj. 1. кісло́тны: ***acidic ions*** кісло́тныя іё́ны. 2. кі́слы: ***acidic rock*** кі́слая паро́да

**acidify** [əˈsɪdɪfaɪ] – v.t. **-fied, -fying** 1. ква́сіць, заква́шваць. 2. ператвара́ць (-ца) ў кі́сьліну

– v.i. кі́снуць

**acidity** [əˈsɪdɪti] n., pl. **-ties** 1. кісьліня́ *f.* 2. кісло́тнасьць *f.*; кісьлі́ннасьць *f.*: ***the acidity of a soil*** кісьлі́ннасьць глे́бы.

**acidophilous milk** [æsɪˈdɑ:fɪləs] ацыдафілі́н -у *m.*

**acid-proof** [ˈæsɪdpru:f] adj. кісло́татрыва́лы, кісьлі́натрыва́лы

**acid-tongued** [ˈæsɪdtʌŋd] adj. зье́длівы, іраны́чны, сарказты́чны

**acknowledge** [əkˈnɑ:lɪdʒ] v.t. 1. прызнава́ць: ***to acknowledge defeat*** прызна́ць пара́зу. 2. пацьвярджа́ць (*атрыма́ньне*). 3. выка́зваць удзя́чнасьць: ***Mary acknowledged the gift with a pleasant letter*** Мары́я адгукну́лася на падару́нак прые́мным лісто́м. 4. адказа́ць: ***He acknowledged the greeting with a nod*** На прывіта́ньне ён адказа́ў ківо́м галавы́. 5. Law прызнава́ць праўдзі́вым; засьве́дчваць, пасьве́дчваць; зацьвярджа́ць: ***to acknowledge a deed before the notary public*** зацьве́рдзіць ку́пчую ўната́рыюса

**acknowledg(e)ment** [əkˈnɑ:lɪdʒmənt] n. 1. пацьве́рджаньне *n.*: ***A receipt is an acknowledgment that a bill has been paid*** Пакві́тава́ньне ёсьць пацьве́рджаньнем, што раху́нак запла́чаны. 2. падзя́ка *f.*, выка́заньне падзя́кі: ***acknowledgment of her kindness*** падзя́ка за яе́ ве́тлівасьць. 3. прызна́ньне *n.*: ***acknowledgment of a mistake*** прызна́ньне памы́лкі

**aclinic** [əˈklɪnɪk] adj. без магні́тнага нахі́лу: ***aclinic line*** магні́тны эква́тар, аклінí́чная крыва́я

**acme** [ˈækmi] n. верх -у *m .*; вяршы́ня *f.*, зэні́т -у *m.*: ***the acme of the development*** вяршы́ня разьвіцьця́; ***the acme of the skill*** верх спра́ўнасьці

**acne** [ˈækni] n. 1. прышчы́ *pl.*. 2. Med. запале́ньне тлу́шчавых зало́заў

**acock** [əˈkɑ:k] – adj. ссу́нуты набо́к

– adv. наба́кір, на́бак, набо́к: ***to put a hat acock*** надзе́ць капялю́ш наба́кір

**acolyte** [ˈækəlaɪt] n. 1. Relig. прыслу́жнік -а, псало́мшчык -а *m.* 2. асыстэ́нт -а; памага́т|ы -ага *m.*

**aconite** [ˈækənaɪt] n. 1. Bot. мардо́ўнік -у *m.* 2. акані́т -у *m.* (*атру́тны лек для зьнячу́льваньня бо́лю*)

**acorn** [ˈeɪkɔ:rn] n. жо́луд -а *m., pl.* жалуды́

**acoustic** [əˈku:stɪk] adj. 1. акусты́чны. 2. слыхавы́: ***acoustic nerve*** слыхавы́ нэрв. 3. гукавы́. 4. гуканепранікáльны: ***acoustic plaster*** гуканепранікáльны тынк

**acoustic mine** акусты́чная мі́на (*яка́я разрыва́ецца ад гу́ку*)

**acoustic waves** гукавы́я хва́лі

**acoustics** [əˈku:stɪks] n., pl. 1. аку́стыка, акусты́чнасьць *f.*: ***The acoustics were so good that people in the last row could hear the speaker well*** Аку́стыка была́ така́я до́брая, што лю́дзі ў апо́шнім ра́дзе маглі́ до́бра чуць прамо́ўцу. 2. аку́стыка *f.* (*наву́ка пра гу́кі*)

**acquaint** [əˈkweɪnt] v.t. знаёміць; інфармава́ць: ***Let me acquaint you with your new duties*** Дазво́льце пазнаёміць вас з ва́шымі но́вымі абавя́зкамі; ***Acquaint him with your scheme*** Паінфарму́йце яго́, які́ ваш плян

• ***be acquainted with*** 1. быць знаёмым *з кім-чым*. 2. ве́даць пра *што*; быць азнаёмленым: ***I am acquainted with his plans*** Я ве́даю пра яго́ныя пля́ны;

• ***become acquainted with*** пазнаёміцца *з кім-чым*

**acquaintance** [əˈkweɪntəns] n., pl. **-ances** 1. знаём|ы -ага *m.*, знаёмая *f.*: ***He had many acquaintances but few friends*** Ён меў шмат знаёмых, а́ле ма́ла пры́яцеляў. 2. знаёмства; ве́даньне *n.*: ***I have some acquaintance with French, but I do not know it well*** Я крыху́ знаёмы з францу́скай мо́вай, але ня ве́даю яе́ до́бра; ***a man of wide acquaintance*** чалаве́к з шыро́кімі знаёмствамі

• ***cultivate the acquaintance of someone*** стара́цца пазна́ць каго́сь до́бра

• ***make the acquaintance of*** пазнаёміцца *з кім-чым*; пазна́ць *каго́-што*

**acquaintanceship** [əˈkweɪntənsʃɪp] n. знаёмства, ве́даньне *n.*: ***Their acquaintanceship lasted many years*** Іхнае знаёмства трыва́ла шмат гадо́ў

**acquiesce** [ˌækwiˈes] v.i. пагаджа́цца; згаджа́цца (*моўчкі або неахвотна*): ***We acquiesced in their plan because we could not suggest a better one*** Мы пагадзі́ліся зь і́хным пля́нам, бо не маглі́ запрапанава́ць ле́пшага

**acquiescence** [ˌækwiˈesəns] n. маўклі́вая зго́да *f.*

**acqiescent** [ˌækwiˈesənt] adj. зго́дны; усту́плівы; згаво́рлівы

**acquire** [əˈkwaɪr] v.t. 1. набыва́ць; нажыва́ць, прыдба́ць: ***to acquire land*** набы́ць зямлю́. 2. здабыва́ць: ***He acquired an education*** Ён здабы́ў асьве́ту

**acquirement** [əˈkwaɪrmənt] n. 1. набыцьцё, здабыцьцё *n.*: ***the acquirement of wealth*** здабыцьцё бага́цьця. 2. дасягне́ньне *n.*: ***Her musical acquirements are remarkable*** Ейныя дасягне́ньні ў галіне́ му́зыкі незвыча́йныя

**acquisition** [ˌækwɪˈzɪʃən] n. 1. набыцьцё *n.*; ку́пля *f.*; прыдба́ньне *n.*: ***With the acquisition of ten rare books, the collection is unmatched*** Пасьля́ набыцьця́ дзесяцёх рэ́дкіх кні́гаў гэ́тая кале́кцыя ня ма́е сабе́ ро́ўнай. 2. набы́т|ак -ку *m.*: ***The latest acquisition is a painting by Rubens*** Апо́шнім набы́ткам ёсьць карці́на Ру́бэнса

**acquisitive** [əˈkwɪzətɪv] adj. пра́гны, прагаві́ты: ***A miser is acquisitive of money*** Скна́ра пра́гны на гро́шы

**acquit** [əˈkwɪt] v.t. **-quitted, -quitting** 1. апра́ўдваць; прызнава́ць невінава́тым: ***The jury acquitted the innocent man*** Прысяжны́я апраўда́лі невінава́тага чалаве́ка. 2. сплю́чваць: ***to acquit a debt*** сплаці́ць доўг. 3. вызваля́ць ад абавя́зку, забавя́заньня; ***to acquit oneself*** спра́віцца; даць ра́ды

**acquittance** [əˈkwɪtəns] n. 1. спла́та до́ўгу, выкана́ньне забавяза́ньня. 2. вызвале́ньне ад до́ўгу *ці* забавяза́ньня. 3. пакві́тава́ньне на вы́плачаную су́му

**acre** [ˈeɪkər] n. а́кар, а́кра *m.*

• ***acres*** , pl. а) абша́ры, зяме́льная со́бскасьць. б) Informal вялі́кая ко́лькасьць: ***acres of money*** шмат гро́шай

• ***God's acre*** мо́гілк|і -аў *pl. only.*, цьвінта́р -а́ *m.*

**acreage** [ˈeɪkərɪdʒ] n. 1. пло́шча ў а́крах: ***The acreage in square miles is 640 acres*** Пло́шча квадра́тнай мі́лі — 640 а́краў. 2. парцэляцы́йны абша́р

**acrid** [ˈækrɪd] adj. 1. е́дкі; во́йстры; го́ркі. 2. Figur. зье́длівы; рэ́зкі: ***an acrid disposition*** зье́длівая нату́ра

**acridity** [æˈkrɪdəti] n., pl. **-ties** 1. е́дкая го́рыч. 2. зье́длівасьць *f.*; зье́длівая нату́ра

**acrimonious** [ˌækrɪˈmouniəs] adj. во́йстры; рэ́зкі, зье́длівы: ***acrimonious words*** во́йстрыя сло́вы

**acrimony** [ˈækrəmouni] n., pl. **-nies** зье́длівасьць, рэ́зкасьць *f.* (*у сло́вах, мане́рах*)

**acrobat** [ˈækrəbæt] n. акраба́т -а *m.*, акраба́тка *f.*

**acrobatic** [ˌækrəˈbætɪk] adj. акрабаты́чны

**acrobatics** [ˌækrəˈbætɪks] n., pl. 1. акраба́тыка *f.*, акрабаты́чныя вы́крутсы; акрабаты́чная гімна́стыка *f.*: ***The children were delighted by the monkey's acrobatics*** Дзе́ці захапля́ліся вы́крутамі ма́лпы

**acronym** [ˈækrənɪm] n. акро́нім -у *m.*

**acrophobia** [ˌækrəˈfɔːbiə] n. акрафо́бія *f.* (*страх пе́рад вышынёю*)

**acropolis** [əˈkrɑːpəlɪs] n. акро́палІь -ю *m.*

**across** [əˈkrɔːs] – prep. праз, це́раз, на другі́ бок: ***A bridge was laid across the river*** Праз раку́ пабудава́лі мост. 2. за; на другі́м баку́: ***lands across the sea*** замо́рскія краі́

– adv. 1. ад аднаго́ бо́ку да друго́га; упо́перак, насу́праць: ***What is the distance across?*** Яка́я адле́гласьць ад аднаго́ кра́ю да друго́га? 2. на́крыж: ***with arms across*** з рука́мі на́крыж; ***across the country*** праз усю́ краіну; ***to go across the country*** падаро́жнічаць па краіне

• ***come/run across*** а) натра́піць, нечака́на сустрэ́ць: ***I ran across an old friend in the city yesterday*** Я нечака́на сустрэ́ў старо́га ся́бру ўчо́ра ў го́радзе. б) даха́дзіць, даво́дзіць: ***His ideas didn't come across to the students*** Яго́ныя ду́мкі не дайшлі́ да студэ́нтаў

**acrostic** [əˈkrɔːstɪk] n. акраве́рш -у *m.*

**acrylic** [əˈkrɪlɪk] – n. акры́лік -у *m.*, акры́лавая сынтэты́чная ма́са; акры́лавая тканіна

– adj. 1. акры́лавы. 2. атрыма́ны з акры́лавае кісла́ты

**acrylic acid** акры́лавая кіслата́

**acrylic fiber** акры́лавае валакно́

**acrylic resins** акры́лавыя смо́лы

**act** [ækt] – n. 1. учы́нІак -ку *m.*: ***an act of kindness*** учы́нак міласэ́рнасьці. 2. працэ́с -у *m.*: ***in the act of*** у працэ́се *чаго́*; ***in the very act of writing these words*** якра́з калі́ пісаліся гэ́тыя сло́вы. 3. а) дзе́я *f.*, акт -у *m.* б) ну́мар у цы́рку, вар'етэ́ *n.* 4. пастано́ва парля́мэнту, акт -у; дакумэ́нт -у *m.*: ***Independence Act*** Акт Незале́жнасьці. 5. удава́ньне *n.*: ***to put on an act*** удава́ць; рабі́ць вы́гляд

– v.i. 1. дзе́яць: ***to act promptly*** дзе́яць неадкла́дна. 2. трыма́цца: ***She acts as if she were tired*** Яна́ захо́ўваецца, ні́быта была́ зму́чаная. 3. удава́ць; прыкі́двацца, прыкіда́цца: ***Her anger is not genuine; she is acting*** Злосьць е́йная не сапра́ўдная, яна́ то́лькі так прыкіда́ецца. 4. гра́ць на сцэ́не: ***He acts very well*** Ён ве́льмі до́бра гра́е

– v.t. гра́ць ро́лю: ***to act Macbeth*** гра́ць ро́лю Макбэ́та

• ***act as*** вы́конваць фу́нкцыю

• ***act for*** заступа́ць *каго́*, дзе́яць ад не́чыйга імя

• ***act on (upon)*** а) дзе́яць *паво́дле чаго*; б) дзе́яць *на што*: ***Yeast acts on dough and makes it rise*** Дро́жджы дзе́юць на це́ста, і це́ста падыхо́дзіць

• ***act up,*** Informal а) дрэ́нна захо́ўвацца. б) сваво́ліць, капры́сіць

**acting** [ˈæktɪŋ] adj. выкана́льнік абавя́зкаў: ***acting chief*** выкана́льнік абавя́зкаў кіраўніка́

**action** [ˈækʃən] n. 1. дзе́яньне *n.*; за́хады *pl.*: ***a machine in action*** машы́на працу́е; дзе́е; ***to take prompt action*** зрабі́ць ху́ткія за́хады. 2. дзе́йнасьць *f.*: ***a man of action*** энэргі́чны чалаве́к.

3. учы́н|ак -ку *m.*:***a kind action*** до́бры ўчы́нак. 4. узьдзе́яньне *n.* 5. бо|й -ю *m.*, бітва́ *f.*; змага́ньне *n.*: ***to be wounded in action*** быць ра́неным у баі́. 6. судо́вая спра́ва, суд -у *m.*; хо́даньне *n.*: ***to bring an action against*** пада́ць каго́ на суд; судзі́цца *з кім.* 7. дзе́яньне п'е́сы, рама́ну

• ***actions*** учы́нкі *pl.*; трыма́ньне *n.*, паво́дзіны *pl.*: ***Actions speak louder than words*** Учы́нкі мацне́йшыя за сло́вы

• ***out of action*** нядзе́йны, сапсава́ны

• ***put out of action*** вы́весьці са стро́ю, зь дзе́йнасьці; пашко́дзіць; сапсава́ць

• ***see action*** браць удзе́л у бі́тве

• ***take action*** а) стаць дзе́йным. б) пача́ць праца ва́ць. в) пача́ць судзі́цца, пада́ць на суд

**actionless** [ˈækʃənləs] adj. бязьдзе́йны; нерухо́мы; інэ́ртны

**activate** [ˈæktɪveɪt] v.t. 1. актывізава́ць. 2. Phys. рабі́ць ра́дыяакты́ўным. 3. Chem. актывізава́ць (*рэа́кцыю*)

**activator** [ˈæktɪveɪtər], n. стымуля́тар -а, узбуджа́льнік -а *m.*

**active** [ˈæktɪv] – adj. 1. руха́вы, жва́вы; энэргі́чны; непасе́длівы. 2. акты́ўны, ажы́ўлены: ***an active market*** ажы́ўлены ры́нак. 3. дзе́йны; акты́ўны: ***an active volcano*** дзе́йны вулька́н; ***to take an active part*** браць дзе́йны ўдзе́л; ***on active duty*** на дзе́йнай слу́жбе. 4. Gram. ***active voice*** дзе́йны стан

– n. 1. дзе́йны стан. 2. актыві́ст -а, акты́|ў -ву *m.*

**activism** [ˈæktɪˌvɪzəm] n. актыві́зм -у *m.*

**activist** [ˈæktɪvɪst] n. 1. актыві́ст -а *m.* 2. прыхі́льнік тэо́рыі актыві́зму

**activity** [ækˈtɪvəti] n., pl. **-ties** 1. дзе́йнасьць, акты́ўнасьць *f.*; рух -у *m.*: ***no activity in the market*** засто́й на ры́нку. 2. дзе́яньне *n.*, дзе́йнасьць *f.*: ***the activities of enemy spies*** дзе́йнасьць варо́жых шпіёнаў

• ***activities,*** pl. заня́ткі, дзе́йнасьць: ***student's outside activities*** пазашко́льная дзе́йнасьць ву́чня; ***social activities*** грама́дзкая дзе́йнасьць

**actor** [ˈæktər] n. 1. акто́р -а, арты́ст -а *m.* 2. дзе́йнік -а *m.*

**actress** [ˈæktrəs], n. акто́рка, арты́стка *f.*

**actual** [ˈæktʃuəl] adj. 1. сапра́ўдны, рэчаі́сны, факты́чны: ***an actual happening*** сапра́ўднае здарэ́ньне. 2. цяпе́рашні, суча́сны: ***the actual state of affairs*** цяпе́рашні стан спра́ваў

**actuality** [ˌæktʃuˈæləti] n., pl. **-ties** 1. рэчаі́снасьць, рэа́льнасьць *f.* 2. рэа́льная рэч, факт -у *m.*

**actualize** [ˈæktʃuəlaɪz] v.t. зьдзяйсьня́ць, рэалізава́ць

**actually** [ˈæktʃuəli] adv. сапраўды́, факты́чна; у сапра́ўднасьці: ***Are you actually going to Belarus?*** Ці вы напра́ўду е́дзеце ў Белару́сь?

**actuate** [ˈæktʃueɪt] v.t. 1. ру́хаць, пушча́ць у ход: ***The pump is actuated by an electric motor*** По́мпу ру́хае электры́чны мато́р. 2. падахво́чваць, схіля́ць; стымуля ва́ць да дзе́яньня, узбуджа́ць, уплыва́ць

**acuity** [əˈkju:əti] n. вастрыня́ *f.*: ***acuity of hearing*** вастрыня́ слы́ху.

**acumen** [ˈækjʊmən] n. ке́млівасьць, ця́млівасьць, прані́клівасьць *f.*

**acuminate** [əˌkju:mɪnət] – adj. во́йстры, во́йстраканцо́вы, заво́йстраны; сьпіча́сты: ***a leaf with an acuminate tip*** ліст з во́йстрым ко́нчыкам

– v. [əˈkju:mɪneɪt] завайстра́ць

**acupuncture** [ˈækjəˌpʌŋktʃər] n. акупункту́ра *f.*, лячэ́ньне го́лкамі

**acute** [əˈkju:t] adj. 1. во́йстры; мо́цны, пранí зьлівы: ***acute pain*** прані́зьлівы боль; ***acute sight*** во́йстры зрок; ***an acute sense of smell*** во́йстрае чуцьцё нюху. 2. прані́клівы, назіра́льны; ке́млівы: ***an acute observer*** прані́клівы назіра́льнік. 3. ве́льмі высо́кі; прані́зьлівы: ***acute sounds*** прані́зьліва высо́кія гу́кі. 4. крыты́чны, пагража́льны: ***an acute fuel shortage*** крыты́чны недахо́п па́ліва. 5. Geom. во́йстры: ***acute angle*** во́йстры кут

• ***acute accent*** акýт -у *m.*, прáвы нá-ціск (´)
**ad** [æd] n., Informal рэклямная абвéстка
**A.D. or AD** [ˌeɪˈdiː] *гл.* **anno Domini**
**adage** [ˈædɪdʒ] n. прыказка *f.*, выслóўе *n.*
**Adam** [ˈædəm] n. Адáм -а *m.* (*пéршы ча-лавéк*)
• ***Adam's apple*** Адáмаў я́блык, гар-ля́к -á, кады́к -а *m.*
• ***the old Adam*** людзкáя схільнасьць да грахý
**adamant** [ˈædəmənt] – adj. 1. непахісны, нязлóмны, мóцны. 2. вéльмі цьвяр-ды́, непарýшны
– n. вéльмі цьвярдóе цéла, рэ́чыва
**adamantine** [ˌædəˈmæntiːn] adj. вéльмі цьвярды́, стóйкі
**adapt** [əˈdæpt] v. 1. прыстасóўваць; пры-лáджваць, падганя́ць: ***to adapt one-self to the new job (environment)*** пры-стасавáцца да нóвае прáцы (асярóдзь-дзя). 2. адаптавáць; перарабля́ць: ***to adapt a novel*** перарабíць рамáн (*у п'éсу абó ў фільм*)
**adaptation** [ˌædæpˈteɪʃən] n. 1. прыста-савáньне *n.*; адаптáцыя *f.*: ***the adapta-tion of the eye*** адаптáцыя вóка; ***Wings are adaptations of upper limbs for flight*** Кры́лы — гэ́та вéрх-нія канéчнасьці, прыстасавáныя да лёту. 2. перарóбка *f.*: ***A motion pic-ture is often an adaptation of a novel*** Фільм чáста бывáе адаптáцыяй ра-мáну
**adapter** or **adaptor** [əˈdæptər] n. 1. пры-стасавáльная прылáда. 2. Mech. адáптэр -а, перахаднік -á *m.*
**adaptive** [əˈdæptɪv] adj. прыстасавáльны
**add** [æd] – v.t. 1. дадавáць: ***to add taste*** дадáць смáку. 2. дакладáць, падкла-дáць: ***Add more wood to the fire*** Пад-кладзí больш дрóваў на агóнь. 3. да-лівáць, падлівáць; далíць, падлíць: ***Add some milk*** Далí малакá. 4. да-сыпáць, падсыпáць: ***to add some su-gar*** падсы́паць цýкру. 5. дапíсваць: ***to add a few lines*** дапісáць кóлькі радкóў. 6. Math. складáць, дадавáць
– v.i. 1. дадавáць: ***The fine day added to the pleasure of the picnic*** Прыгó-жы дзень дадáў прыéмнасьці да пік-ніку. 2. складáць: ***to learn to add and subtract*** вучы́цца дадавáць і адымáць
• ***add in*** улучáць (-ца); зьмяшчáць (-ца)
• ***add up*** знайсьці сýму (*кóлькіх лí-каў*)
• ***add up to***, Informal давáць у сýме, раўня́цца
**addendum** [əˈdendəm] n., pl. **-da** 1. да-дáт|ак -ку *m.*
**adder I** [ˈædər] n. гад -а *m.*, гáдзіна, га-дзю́ка *f.*
**adder II** [ˈædər] n. машы́на да складáнь-ня, лічы́льная машы́на
**adder's-mouth** [ˈædərzmaʊθ] n. 1. Bot. рóзныя паўнóчна-амэрыкáнскія архі-дэ́і. 2. ятры́шнік -у *m.*
**adder's-tongue** [ˈædərstʌŋ] n. Bot. віды пáпараці
**addict** [ˈædɪkt] – n. 1. наркамáн -а; аль-кагóлік -а *m.*: ***cocaine addict*** какаі-ніст -а *m.*, какаіністка *f.* 2. Fig. фанáт -а *m.*
– v.i. [əˈdɪkt] уця́гвацца, захапля́цца (*звычáйна нечым благíм*); аддавáцца (*звы́чцы*)
**addicted** [əˈdɪktɪd] adj. мóцна ўця́гнуты, залéжны: ***to be addicted to the use of tobacco*** уцягнýцца ў курэ́ньне
**addiction** [əˈdɪkʃən] n. 1. моцны нахíл, звы́чка *f.*, ця́га да нéчага. 2. наркамá-нія, залéжнасьць *f.* (*ад наркотыку, кý-рыва*)
**addition** [əˈdɪʃən] n. 1. складáньне *n.* 2. дадáньне, дадавáньне *n.*: ***The ad-dition of flour will thicken gravy*** Ад дадáньня мукí пагусьцéе падлíўка. 3. дадáт|ак -ку *m.* 4. Chem. прымéш-ка, дамéшка *f.* 5. прыбудóва *f.*
• ***in addition to*** у дадáтак да, апрачá тагó
**additional** [əˈdɪʃənəl] adj. дадаткóвы
**addle** [ˈædəl] – v.t. 1. блы́таць, зьбівáць з панталы́ку, бянтэ́жыць. 2. пса-вáцца, тýхнуць (*пра яйка*)

– adj. 1. збаламу́чаны; зблы́таны. 2. сапсава́ны, ту́хлы

**addlebrained** [ˈædəlˌbreɪnd] adj. 1. бязмо́згі, тупы́. 2. зьбянтэ́жаны

**address** [əˈdres] – n. 1. а́драс -у *m.* 2. зваро́т -у *m.*, прамо́ва *f.* (*асабл. афіцы́йная*): ***The President made an address to the nation on television*** Прэзыдэ́нт вы́ступіў са зваро́там да наро́ду ў тэлеві́зіі. 3. мане́ра гавары́ць, гаво́рка *f.*: ***His address was abrupt*** Яго гаво́рка была́ рэ́зкая. 4. афіцы́йная про́сьба да ўла́даў. 5. Gram. зваро́т|ак -ку *m.*

– v.t. 1. адрасава́ць (*ліст, пасы́лку*). 2. скіро́ўваць: ***to address a formal request to a government*** скірава́ць афіцы́йную про́сьбу да ўра́ду. 3. прамаўля́ць; зварача́цца: ***He addressed himself to the chairman*** Ён зьвярну́ўся да старшыні́. 4. тытулава́ць: ***How do you address a mayor?*** Як тытулава́ць мэ́ра?

**address book** а́драсная кні́жка

**addressee** [ˌædresˈiː] n. адраса́т -а *m.*

**adenoids** [ˌædənɔɪdz] n., pl. Med. адэно́іды *pl.*, мінда́ліны, мігда́ліны *f.*

**adept** – n. [ˈædept] зна́ўц|а -ы, зна́|вец -ўца., экспэ́рт -а *m.*

– adj. [əˈdept] спрактыкава́ны, дасьве́дчаны, спры́тны: ***an adept tennis player*** спрактыкава́ны, дасьве́дчаны гуле́ц у тэ́ніс; ***She is adept in getting her own way*** Яна́ спры́тная настая́ць на сваі́м

**adequacy** [ˈædɪkwəsi] n. адпаве́днасьць, адэква́тнасьць *f.*

**adequate** [ˈædɪkwət] adj. 1. дастатко́вы: ***His wages are adequate to support his family*** Яго́ны зарабо́так дастатко́вы, каб утры́мваць сям'ю́. 2. адпаве́дны, кампэтэ́нтны: ***a person is adequate for the job*** асо́ба адпаве́дная для гэ́тае пра́цы

**adhere** [ədˈhɪr] v.i. 1. трыма́цца, прыліпа́ць; прыстава́ць; лі́пнуць, прыліпа́ць: ***Paint adheres best to a clean surface*** Фа́рба найле́пш прыстае́ да чы́стае паве́рхні. 2. трыма́цца, застава́цца ве́рным: ***to adhere to a plan*** трыма́цца пля́ну; ***to adhere to the church of one's parents*** застава́цца ве́рным царкве́ сваі́х бацько́ў

**adherence** [ədˈhɪrəns] n. 1. ве́рнасьць, прывя́занасьць, ляя́льнасьць *f.* 2. прытры́мваньне *n.*; дакла́днае выко́нваньне: ***rigid adherence to the rules*** стро́гае прытры́мваньне пра́вілаў

**adherent** [ədˈhɪrənt] – n. прыхі́льнік -а *m.*; прыхі́льніца *f.*; пасьлядо́ўнік -а *m.*, пасьлядо́ўніца *f.*

– adj. 1. лі́пкі, які прыстае́. 2. Bot. пryро́слы

**adhesion** [ədˈhiːʒən] n. 1. прыстава́ньне, прыліпа́ньне *n.* 2. прывя́занасьць, ве́рнасьць, ляя́льнасьць *f.* 3. Phys. малекуля́рнае прыцяга́ньне. 4. Med. зрост -у *m.* (*тка́нак*)

**adhesive** [ədˈhiːsɪv] – adj. 1. які́ лёгка прыстае́. 2. лі́пкі, кле́йкі, ліпу́чы: ***adhesive tape*** пля́стыр

– n. кле|й -ю *m.*

**adhesiveness** [ədˈhiːsɪvnəs] n. кле́йкасьць, ліпу́часьць *f.*

**ad hoc** [ˈædˈhɑːk] Latin спэцыя́льны, адмысло́вы: ***an ad hoc committee*** адмысло́вы камітэ́т

**adieu** [əˈdjuː] – interj. быва́й, быва́йце

– n., pl. **adieus, adieux** разьвіта́ньне *n.*

• ***make one's adieux*** разьвіта́цца

**adipose** [ˈædɪpoʊs] – adj. 1. тлу́шчавы, то́ўшчавы. 2. тлу́сты

– n. жывёльны тлу́шч: ***adipose tissue*** а) жывёльны тлу́шч. б) злуча́льная тка́нка пад ску́рай і наво́кал ны́рак

**adiposity** [ˌædɪˈpɑːsəti] n. 1. атлусьце́ньне *n.* 2. схі́льнасьць да паўнаты́

**adit** [ˈædɪt] n. 1. увахо́д -у, прахо́д -у *m.* 2. падыхо́д -у., до́ступ -у *m.* 3. што́льня *f.* (*увахо́д у ша́хту*)

**adjacency** [əˈdʒeɪsənsi] n., pl. **-cies** 1. прыляга́ньне, прымыка́ньне *n.* 2. суме́жнасьць *f.*, сусе́дзтва *n.*

**adjacencies,** pl. навако́льная мясцо́васьць

**adjacent** [əˈdʒeɪsənt] adj. 1. блізкí; прылéглы; сусéдні; сумéжны: ***The farm adjacent to ours has been sold*** Сусéдняя да нас фáрма прадáдзеная

**adjacent angles**, Geom. сумéжныя куты́

**adjectival** [ˌædʒɪkˈtaɪvəl] adj. прымéтнікавы: ***an adjectival suffix*** прымéтнікавы сýфікс

**adjective** [ˈædʒɪktɪv] – n. Gram. прымéтнік -а *m.*
– adj. 1. прымéтнікавы, ужы́ты як прымéтнік. 2. залéжны, несамастóйны. 3. Law працэдýрны, дапамóжны. 4. нетрывáлы, без замацавáльніка (*пра фáрбу*)

**adjoin** [əˈdʒɔɪn] – v.t. прымыкáць; прылягáць; межавáць: ***Canada adjoins the United States*** Канáда мяжýе са Злýчанымі Штáтамі; ***Our garden adjoins the house*** Наш сад каля дóму
– v.i. межавáць: ***Belarus and Poland adjoin*** Беларýсь і Пóльшча мяжýюць

**adjoining** [əˈdʒɔɪnɪŋ] adj. сумéжны; сусéдні: ***adjoining rooms*** сусéднія, сумéжныя пакóі

**adjourn** [əˈdʒɜːrn] – v.t. 1. адкладáць на пасьля́; адтэрмінóўваць: ***to adjourn a meeting*** адклáсьці пасéджаньне. 2. спыня́ць: ***to adjourn the court for two hours*** спыні́ць пасéджаньне сýду на дзьве гадзíны. 3. адця́гваць,
– v.i. 1. абвяшчáць перапы́нак (*у прáцы*), рабíць пярэ́рву: ***The court adjourned from Friday until Monday*** Суд абвясьцíў перапы́нак ад пя́тніцы да панядзéлка. 2. перахóдзіць; перабірáцца: ***The committee adjourned to a larger hall*** Камітэ́т перанёс пасéджаньне ў бóльшую зáлю

**adjournment** [əˈdʒɜːrnmənt] n. 1. адтэрмінавáньне *n.*, адклáд -у *m.* 2. перапы́н|ак -ку *m.*

**adjudge** [əˈdʒʌdʒ] v.t. 1. прыгавóрваць; прызнавáць: ***He was adjudged guilty*** Ён быў прызнáны вінавáтым. 2. засуджáць: ***The thief was adjudged to prison for two years*** Злóдзей быў засýджаны на два гады́ турмы́. 3. разглядáць (*у судзé*). 4. прысуджáць: ***The property was adjudged to the rightful owner*** Маёмасьць былá прызнáная прáўнаму ўлáсьніку

**adjudicate** [ əˈdʒuːdɪkeɪt] – v.t. судзíць; улáджваць спрáву згóдна з закóнам
– v.i. прыймáць пастанóву: ***The court adjudicated on the case*** Суд прыня́ў пастанóву ў спрáве

**adjudication** [əˈdʒuːdɪkeɪʃən] n. 1. прысýд -у *m.* 2. пастанóва сýду

**adjunct** [ˈædʒʌŋkt] n. 1. дадáт|ак -ку *m.*. 2. памóчнік -а; асыстэ́нт -а; ад’ютáнт -а *m.* 3. паясьня́льныя слóвы ў скáзе (*азначэ́ньні, дапаўнéньні, акалíчнасьці*)

**adjuration** [ˌædʒuˈreɪʃən] n. 1. накáз -у, загáд -у *m.*: ***a strong adjuration to the witness to tell the whole truth*** мóцны накáз сьвéдку, каб казáў прáўду. 2. заклінáньне *n.*; прыся́га *f.*

**adjure** [əˈdʒʊr] v.t. 1. давáць накáз; падвóдзіць пад прыся́гу. 2. заклінáць; малíць; упрóшваць, упрашáць: ***I adjure you to speak the truth*** Я заклінáю вас, гаварэ́це прáўду

**adjust** [əˈdʒʌst] – v.t. 1. дапасóўваць, дастасóўваць. 2. папраўля́ць; упарадкóўваць; настаўля́ць; урэгулёўваць: ***to adjust a radio dial*** настáвіць радыё. 3. пагаджáць; залáджваць: ***to adjust a difference of opinion*** пагадзíць спрэ́чку. 4. ацэ́ньваць (*шкоду, страты*)
– v.i. 1. прызвычáйвацца; дастасóўвацца: ***Freshmen soon adjust to school life*** Навічкí хýтка прывыкáюць да шкóльнага жыцьця́

**adjustable** [əˈdʒʌstəbəl] adj. 1. дапасавáльны. 2. рухóмы: ***an adjustable bookshelf*** рухóмая кнíжная палíца

**adjustment** [əˈdʒʌstmənt] n. 1. датарнавáньне, дастасавáньне *n.*: ***an adjustment to village life*** дастасавáньне да жыцьця́ на вёсцы. 2. рэгуля́цыя *f.*: ***a tone adjustment on the radio*** рэгуля́цыя тóну ў рáдыё. 3. улáджаньне,

пагаднéньне *n.*: ***an out-of-court adjustment of a claim for damages*** палюбóўнае ўлáджаньне прэтэ́нзіі за шкóду. 4. дапасавáньне цаны́, зьні́жка *f.*

**adjutancy** [ˈædʒʊtənsi] n. ад'ютáнцтва *n.* (*ранг абó пасáда ад'ютáнта*)

**adjutant** [ˈædʒʊtənt] n. 1. ад'ютáнт -а *m.*. 2. асыстэ́нт -а, застýпнік -а, памагáт|ы -ага *m.*

**adjutant general** 1. начáльнік адміністрацы́йнай упрáвы сухазéмных вóйскаў. 2. Brit. генэрáл адміністрацы́йнай слýжбы

**admeasure** [ædˈmeʒər] v.t. адмéрваць, выдзяля́ць

**administer** [ədˈmɪnɪstər] – v.t. 1. вéсьці (*спрáвы*), кіравáць, загáдваць, адміністравáць: ***to administer one's household*** вéсьці сваю́ хáтнюю гаспадáрку. 2. давáць, выдавáць, раздавáць: ***The doctor administered an anesthetic to the patient*** Дóктар даў пацыéнту абязбóльвальны срóдак. 3. кантралявáць, стабілізавáць цэ́ны абó заробóткі

– v.i. Law выкóнваць абавя́зкі адміністрáтара *абó* апякунá

• ***administer an oath*** падвóдзіць пад прыся́гу

**administration** [ədˌmɪnɪˈstreɪʃən] n. 1. загáдваньне, вядзéньне; кіравáньне *n.* 2. кіраўні́цтва *n.*, адміністрáцыя *f.* 3. давáньне, удзялянне *n.*: ***the administration of aid to refugees*** давáньне дапамóгі ўцекачáм

• ***the Administration*** а) прэзыдэ́нт і ягóны ўрад; б) Brit. прэм'éр і кабінэ́т

**administrative** [ədˈmɪnɪstreɪtɪv] adj. 1. адміністрацы́йны; выканáўчы: ***administrative abilities*** адміністрацы́йныя здóльнасьці; ***administrative policies*** палі́тыка адміністрáцыі

**administrator** [ədˈmɪnɪstreɪtər] n. 1. адміністрáтар -а, кіраўні́к -á, арганізáтар -а, урадóл|ец -ўца *m.* 2. Law адміністрáтар -а, выканáльнік тэстамэ́нту, павéрнік -а *m.*

**administratrix** [ədˈmɪnɪstreɪtrɪks] n., pl. **-trixes, -trices** Law адміністрáтарка *f.*, выканáльніца тэстамэ́нту, павéрніца *f.*

**admirable** [ˈædmərəbəl] adj. 1. дзівóсны, захапля́льны; цудóўны, чарóўны. 2. дасканáлы, вéльмі дóбры

**admirably** [ˈædmərəbli] adv. захапля́льна, чарóўна, цудóўна; дасканáла

**admiral** [ˈædmərəl] n. 1. адмірáл -а *m.* 2. камáндуючы рыбáцкае абó гандлёвае флятылііі. 3. Zool. адмірáл -а *m.* (*маты́ль*)

**admiralty** [ˈædmərəlti] n., pl. **-ties** 1. марскáя адміністрáцыя. 2. адмірáльства *n.* (*ранг і пасáда адмірáла*)

**admiration** [ˌædməˈreɪʃən] n. 1. захаплéньне *n.*: ***with admiration*** з захаплéньнем, захóплена. 2. прадмéт захаплéньня

**admire** [ədˈmaɪr] v.t. 1. захапля́цца. 2. дзівавáцца, дзі́ву давáцца: ***I admire your bravery*** Захапля́юся тваёй адвáгай

**admirer** [ədˈmaɪrər] n. 1. паклóньнік -а *m.*, паклóньніца *f.* 2. закахáн|ы -ага *m.*

**admissible** [ədˈmɪsəbəl] adj. 1. дапушчáльны; дазвóлены: ***Is it admissible to smoke here?*** Ці дазвóлена тут кўры́ць? 2. дарэ́чны: ***an admissible suggestion*** дарэ́чная прапанóва. 3. Law дапушчáльны (*як прáўны дóвад*). 4. прымáльны: ***Only adults are admissible to this club*** Тóлькі дарóслыя мóгуць быць прыня́тыя ў гэ́ты клюб

**admission** [ədˈmɪʃən] n. 1. прыняцьцё, дапушчэ́ньне, залічэ́ньне *n.*: ***admission to the university*** залічэ́ньне ва ўнівэрсытэ́т; ***admission into a hospital*** прыняцьцё ў шпітáль. 2. а) дазвóл на ўвахóд: ***admission by ticket*** увахóд паводле білéтаў; б) цанá ўвахóду: ***The admission was four dollars*** Цанá ўвахóду былá чатыры даля́ры. 3. прызнáньне *n.*: ***an admission of guilt*** прызнáньне віны́. 4. прызначэ́ньне *n.*, дазвóл -у *m.*: ***admission to the bar*** дазвóл практыкавáць прáва

• ***admission fee*** уступнáя плáта

**admit** [ədˈmɪt] – v.t. 1. прызнавáць; прызнавáцца ў *чым*: ***to admit one's mis-***

***take or guilt*** прызнáць сваю памы́лку або́ віну́. 2. дапушчáць: ***It is necessary to admit the possibility of error*** Неабхо́дна дапушчáць магчы́масьць памы́лкі. 3. упушчáць: ***Windows admit light and air to the room*** Во́кны ўпушчáюць у пако́й сьвятло́ й паве́тра. 4. давáць прáва на ўсту́п: ***This ticket admits one person*** Гэ́ты біле́т на адну́ асо́бу. 5. прымáць: ***I was admitted to this club last year*** Мяне́ прынялí ў гэ́ты клюб у міну́лым го́дзе. 6. зьмяшчáць

• ***admit of*** дапушчáць, дазваля́ць: ***The question admits of no delay*** Пытáньне ня це́рпіць адклáду

**admittance** [ədˈmɪtəns] n. 1. до́ступ -у, уваxо́д -у; дазво́л -у *m.* (*прáва ўвахо́ду ці ўсту́пу*): ***No admittance*** Уваxо́д забаро́нены. 2. прыём -у *m.*, прыймо (*ва ўстано́ву*) *n.* 3. Electr. по́ўная правóднасьць

**admittedly** [ədˈmɪtədli] adv. дапушчáльна; агульнапрызнáна; бясспрэ́чна; мáбыць, му́сіць

**admix** [ədˈmɪks] v.t. даме́шваць, пры-ме́шваць

**admixture** [ədˈmɪkstʃər] n. пры́месь, даме́шка *f.*

**admonish** [ədˈmɑːnɪʃ] v.t. 1. перасьцерагáць. 2. ушчувáць, дакарáць, рабíць заўвáгу *або́* вымо́ву: ***The teacher admonished the student for his careless work*** Настáўнік зрабíў ву́чню заўвáгу за нядбáйную прáцу. 3. рáдзіць, павучáць: ***Their guide admonished the mountain climbers to follow him carefully*** Правадні́к павучáў альпіні́стаў, каб яны́ асьцяро́жна ішлí за ім. 4. нагáдваць: ***She admonished him of his obligation*** Янá нагадáла яму́ пра яго́нае абавязáньне

**admonition** [ˌædməˈnɪʃən] n. 1. перасьцяро́га, заўвáга *f.*; ушчувáньне *n.*, вымо́ва *f.*; павучáньне *n.*, напамі́н|ак -ку *m.* 2. парáда, рэкамэндáцыя *f.*

**admonitory** [ədˈmɑːnətɔːri] adj. павучáльны, перасьцерагáльны, ушчувáльны

**ad nauseam** [ˌædˈnɔːziəm] Latin празь ме́ру, да мо́ташнасьці

**adobe** [əˈdoʊbi] – n. 1. цэ́гла, су́шаная на со́нцы. 2. самáн -у *m.* 3. буды́ніна з самáну

– adj. пабудавáны зь неапáленае цэ́глы, самáнавы

• ***adobe house*** самáнавы дом

**adolescence** [ˌædəˈlesəns] n. юнáцтва *n.*: ***years of adolescence*** юнáцкія гады́

**adolescent** [ˌædəˈlesənt] – adj. 1. юнáцкі; дзяво́чы: ***adolescent friendship*** сябро́ўства зь юнáцкіх часо́ў. 2. недасьпе́лы: ***He behaves like an adolescent*** Ён паво́дзіць сябе́ як хлапчу́к

– n. юнáк -á *m.*, юнáчка *f.*; падле́т|ак -ка *m. & f.*

**adopt** [əˈdɑːpt] v.t. 1. усынаўля́ць; удачарáць: ***an adopted child*** прыёмнае дзіця́. 2. прымáць: ***The committee adopted the resolution*** Камітэ́т пры́няў рэзалю́цыю. 3. запазычáць

**adoption** [əˈdɑːpʃən] n. 1. прымáньне, прыня́цьце *n.*: ***the adoption of some new rules*** прыня́цьце некато́рых но́вых прáвілаў. 2. усынаўле́ньне; удачарэ́ньне *n.*

**adoptive** [əˈdɑːptɪv] adj. 1. прыёмны, прыймо́вы, усыно́ўлены. 2. схíльны да прыймá

**adorable** [əˈdɔːrəbəl] adj. 1. цудо́ўны, чаро́ўны. 2. абагаўля́ны

**adoration** [ˌædəˈreɪʃən] n. 1. прыхíльнасьць, пашáна *f.*. 2. пакланéньне *n.*, Relig. адарáцыя *f.*, абагаўле́ньне *n.*

**adore** [əˈdɔːr] v.t. 1. го́рача любíць; шанавáць: ***She adores her mother*** Янá го́рача лю́біць і шану́е сваю мáці. 2. пакланя́цца. 3. Informal захапля́цца: ***I just adore that hat*** Я про́ста захо́пленая гэ́тым капелюшо́м

**adorer** [əˈdɔːrər] n. гарáчы прыхíльнік

**adorn** [əˈdɔːrn] v.t. 1. упрыго́жваць; аздабля́ць: ***a table adorned with flowers*** стол упрыго́жаны кве́ткамі. 2. дадавáць бля́ску, го́нару або́ вáжнасьці

**adornment** [əˈdɔːrnmənt] n., pl. **-s** 1. аздо́ба *f.*, арнамэ́нт -у *m.*, дэкарáцыя *f.*:

***Christmas tree adornments*** цáцкі на ялíнку. 2. упрыгóжваньне; дэкаравáньне *n.*: ***the adornment of the room*** дэкаравáньне пакóю

**adown** [əˈdaʊn] prep., adv., Poet. унíз: ***adown the stream*** унíз па рэ́чцы

**adrenal** [əˈdri:nəl] – adj. прыны́ркавы; надны́ркавы
– n. надны́ркавая залóза

**adrenalin** [əˈdrenəlɪn] n. адрэналíн -у *m.*

**adrift** [əˈdrɪft] adv., adj. на плы́ні бяз стырнá; на лáсцы лёсу: ***Our boat is adrift on the lake*** Наш чóвен вóльна плáвае на вóзеры

**adroit** [əˈdrɔɪt] adj. спрáўны, умéлы: ***He is an adroit climber*** Ён спрáўны лазýн

**adsorb** [ædˈsɔ:rb] v.t. адсарбавáць, прыця́гваць, затры́мваць (*газ, вáдкасьць*): ***Dyes are adsorbed by the fibers of cloth*** Фарбавáльнікі адсарбýюцца валóкнамі тканíны

**adsorption** [ədˈsɔ:rpʃən] n. адсóрбцыя *f.*

**adulate** [ˈædʒəleɪt] v.t. лісьлíвіць; падлíзвацца, падлáшчвацца

**adulation** [ˌædʒəˈleɪʃən] n. лісьлíвасьць *f.*; падлíзваньне, падлáшчваньне *n.*

**adulatory** [ˈædʒələtɔ:ri] adj. лісьлíвы, падлíзьлівы

**adulator** [ˈædʒəleɪtər] n. лісьлí|вец -ўца *m.*, падлíза *m. & f.*, падлíзьнік -а *m.*

**adult** [əˈdʌlt] – n. 1. дарóслы -ага *m.*, дарóслая *f.*; паўналéтн|і -яга *m.*, паўналéтняя *f.* 2. дарóслая жывёліна ці расьлíна
– adj. 1. дарóслы; стáлы: ***an adult person*** паўналéтняя, дарóслая асóба; ***adult notions*** стáлыя дýмкі. 2. для дарóслых: ***adult education*** адукáцыя для дарóслых

**adulterate** [əˈdʌltəreɪt] – v.t. падмéшваць; фальшавáць (*няя́каснымі дамéшкамі*); развóдзіць: ***adulterate milk with water*** разьвéсьці малакó вадóю
– adj. [əˈdʌltərət] падрóблены, сфальшавáны

**adulteration** [əˌdʌltəˈreɪʃən] n. 1. падраблянне, падмéшваньне, фальшавáньне *n.* 2. падрóбка *f.*

**adulterator** [əˈdʌltəreɪtər] n. фальсыфікáтар, падрóбнік -а *m.*

**adulterer** [əˈdʌltərər] n. блудадзé|й -я *m.*

**adulteress** [əˈdʌltərəs] n. блудадзéйка *f.*

**adulterous** [əˈdʌltərəs] adj. 1. блудадзéйны. 2. вінавáты ў блудадзéйстве

**adultery** [əˈdʌltəri] n., pl. **-teries** блудадзéйства *n.*, жанíмская здрáда

**adulthood** [əˈdʌlthʊd] n. 1. дарóслы век. 2. дарóсласьць *f.*

**advance** [ədˈvæns] – v.t. рýхаць напéрад, дапамагáць, спрыя́ць: ***to advance the cause of peace*** спрыя́ць спрáве мíру. 2. давáць, прывóдзіць (*аргумэ́нт*). 3. плацíць пéрад тэ́рмінам; давáць авáнс; давáць зáгадзя: ***to advance a loan*** давáць пазы́ку. 4. прысьпяшáць: ***to advance the date of the wedding*** прысьпéшыць дáту вясéльля. 5. павышáць ранг; авансавáць: ***to advance his rank from lieutenant to captain*** павы́сіць ягó зь лейтэнáнта ў ранг капітáна
– v.i. 1. ісьцí; рýхацца напéрад: ***The troops advanced*** Вóйска пайшлó ў нáступ. 2. рабíць пóступ, удасканáльвацца: ***to advance in skill*** рабíць пóступы ў сваёй спэцыя́льнасьці. 3. павышáцца ў цанé: ***The stock advanced three points*** Áкцыі падняліся на тры пýнкты
– n. 1. рух напéрад, пасóўваньне напéрад: ***The army's advance was very slow*** Пасóўваньне вóйска былó вéльмі павóльнае. 2. прóйдзеная адлéгласьць *f.* 3. пóступ -у *m.*: ***the advance of knowledge*** пóступ вéды. 4. рóст кóлькасьці, вáртасьці абó цаны́; падвы́шка *f.* 5. авáнс -у, задáт|ак -ку *m.*; пазы́ка *f.*
– adj. 1. пярэ́дні, перадавы́: ***advance party of the expedition*** перадавáя грýпа экспэды́цыі. 2. заўчáсны, сыгнáльны: ***an advance copy of the book*** сыгнáльны экзэмпля́р кнíгі

• ***advances*** заляцáньне

• ***go in advance*** а) ісьцí напéрадзе. б) быць больш разьвíтым

• ***in advance*** а) загадзя. б) сьпераду, напе́радзе

• ***in advance of*** упе́радзе *ці* ране́й *каго́-чаго́*

**advanced** [əd'vænst] adj. 1. пяр́эдні: ***an advanced patrol*** пярэ́дні патру́ль. 2. перадавы́: ***advanced political ideas*** перадавы́я палітычныя ідэ́і. 3. найнаве́йшы: ***an aircraft of an advanced design*** самалёт найнаве́йшае мадэ́лі. 4. далёка пасу́нуты (*до́сьлед, хваро́ба*): ***advanced age*** глыбо́кі век. 5. павы́шаны, пабо́льшаны

**advance guard** аванга́рд -у *m.*

**advancement** [əd'vænsmənt] n. 1. рух напе́рад, прасо́ўваньне *n.* 2. по́ступ -у *m.*, удасканале́ньне *n.* 3. павышэ́ньне *n.*: ***His new position is a great advancement*** Яго́нае но́вае стано́вішча — вялі́кае павышэ́ньне

**advantage** [əd'væntɪdʒ] – n. 1. перава́га *f.*, верх -у *m.*, карысьне́йшае стано́вішча; кары́сьць; вы́гада *f.*, прывіле́й -ю *m.*: ***to gain an advantage over*** здабы́ць перава́гу. 2. спрыя́льныя, абста́віны, уда́ча *f.*, шча́сьце *n.*; дапамо́га *f.*

– v.t. 1. быць на руку́ або́ кары́сным; дава́ць кары́сьць. 2. падтры́мваць, спрычыня́цца да по́ступу

• ***take advantage of a person*** вы́карыстаць, ашука́ць чалаве́ка

• ***take advantage of an opportunity*** скарыста́ць з наго́ды

**advantageous** [ˌædvæn'teɪdʒəs] adj. кары́сны, выго́дны

**advection** [əd'vekʃən] n. рух -у *m.* (*цяпла́, паве́тра, вады́*)

**advent** ['ædvent], n. пры́йсьце *n.*, прыхо́д -у *m.*

**Advent** ['ædvent] n. 1. адвэ́нт -у *m.*, перадкаля́дная пара́; пост -у *m.* (*пе́рад Каля́дамі*), Пілі́паўка *f.* 2. пры́йсьце Хрыста́ на зямлю́. 3. надыхо́д -у *m.*

**Adventist** ['ædventɪst] – n. адвэнты́ст -а *m.*, адвэнты́стка *f.*

– adj. адвэнты́сцкі

**adventure** [əd'ventʃər] – n. 1. прыго́да, аванту́ра *f.*: ***the spirit of adventure*** прыго́дніцкі дух. 2. рызыко́ўная спра́ва, ры́зыка *f.*; адва́жнае пачына́ньне: ***the daring adventure of man rocketing into outer space*** адва́жны палёт чалаве́ка ў ко́смас

– v.i. 1. забіра́цца: ***Now he adventured on a shore unknown*** Цяпе́р забра́ўся ён на бе́раг невядо́мы. 2. адва́жвацца; нава́жвацца, асьме́львацца: ***She could not adventure to do so*** Яна́ не магла́ асьме́ліцца зрабі́ць гэ́так. 3. рызыкава́ць

**adventurer** [əd'ventʃərər] n. 1. шука́льнік прыго́даў, рызыка́нт -а *m.* 2. аванту́рнік -а *m.*

**adventuresome** [əd'ventʃərsʌm] adj. 1. прыго́дніцкі. 2. адва́жны

**advanturess** [əd'ventʃərəs] n. 1. шука́льніца прыго́даў, рызыка́нтка *f.* 2. аванту́рніца *f.*

**adventurous** [əd'ventʃərəs] adj. 1. аванту́рны; прыго́дніцкі; ху́ткі да ры́зыкі; адва́жны: ***a bold adventurous explorer*** адва́жны прыго́днік, разьве́днік. 2. рызыко́ўны: ***an adventurous undertaking*** рызыко́ўнае й небясьпе́чнае пачына́ньне

**adverb** ['ædvɜːrb] n., Gram. прысло́ўе *n.*

**adverbial** [əd'vɜːrbiəl] adj., Gram. прысло́ўны: ***an adverbial suffix*** прысло́ўны су́фікс

**adversary** ['ædvərseri] – n., pl. **-saries** 1. супраці́ўнік -а, во́раг -а *m.* 2. спабо́рнік, супе́рнік -а *m.*: ***Who is our adversary in this week's soccer game?*** Хто бу́дзе на́шым спабо́рнікам у футбо́льнай гульні́ на гэ́тым ты́дні?

– adj. 1. варо́жы, непрыя́зны, антаганісты́чны: ***The hearings are not to be adversary in character*** Слу́ханьні не паві́нны мець варо́жы хара́ктар

**adverse** [æd'vɜːrs] adj. 1. непрыя́зны, варо́жы, нязго́дны *з чым*: ***His adverse criticisms discouraged me*** Яго́ная варо́жая кры́тыка зьнеахво́ціла мяне́. 2. некары́сны, шко́дны: ***adverse circumstances*** некары́сныя абста́віны. 3. супраці́ўны: ***adverse***

***winds*** супрацíўныя вятры́. 4. супрацьлéжны

**adversity** [æd'vɜ:rsəti] n., pl. **-ties** нядóля *f.*, няшчáсьце *n.*, бядá, нягóда *f.*: ***to experience adversity*** пазнáць бяду́

**advert** [æd'vɜ:rt] v.i. зварачáць; паклікáцца *на што*: ***to advert to other matters*** зьвярну́ць увáгу на íншыя спрáвы

**advertent** [æd'vɜ:rtənt] adj. увáжны, спасьцерагáльны

**advertise** ['ædvərtaɪz] – v.t. 1. рэклямавáць: ***Manufacturers advertise their products widely*** Вытвóрцы рэкляму́юць свaé тавáры. 2. паведамлáць, інфармавáць, падавáць да вéдама. 3. абвяшчáць, давáць абвéстку: ***to advertise in the newspaper*** абвяшчáць у газэ́це; ***He advertised for a job*** Ён даў абвéстку пра пóшукі прáцы

**advertisement** [ˌædvər'taɪzmənt] n. абвéстка, рэклáма *f.*

**advertising** ['ædvərtaɪzɪŋ] n. рэклямавáньне, абвяшчáньне *n.*

**advice** [əd'vaɪs] n. парáда, рáда *f.*: ***doctor's advice*** лéкарская парáда; ***to ask someone's advice*** пытáцца ў нéкага парáды; ***to take someone's advice*** паслу́хацца нéчае рáды

**advisability** [ədˌvaɪzə'bɪləti] n. мэтазгóднасьць, слу́шнасьць *f.*

**advisable** [əd'vaɪzəbəl] adj. адпавéдны, мэтазгóдны, пажадáны; разу́мны

**advise** [əd'vaɪz] – v.t. 1. рáіць, перасьцерагáць. 2. рэкамэндавáць; прапíсваць: ***His doctor advised complete rest*** Ягóны лéкар прапісáў яму́ пóўны адпачы́нак. 3. павéдаміць, паінфармавáць, даць інфармáцыю: ***to advise of the date of delivery*** павéдаміць дáту дастáўкі

– v.i. 1. рáіць: ***I shall do as you advise*** Я зраблю́, як ты рáіш

**advised** [əd'vaɪzd] adj. 1. узвáжаны, абду́маны: ***an ill-advised remark*** неабду́маная *або* неразвáжная заўвáга. 2. паінфармавáны: ***keep me advised*** інфарму́йце мянé

**advisedly** [əd'vaɪzɪdli] adv. наўмы́сна

**adviser** or **advisor** [əd'vaɪzər] n. 1. дарáднік -а, дарáдц|а -ы; кансультáнт -а *m.*: ***a political adviser*** палíты́чны дарáднік. 2. кансультáнт -а *m.*

**advisory** [əd'vaɪzəri] – adj. дарáдны, кансультацы́йны: ***an advisory committee*** дарáдны камітэ́т

– n., pl. **-ries** афіцы́йнае паведамлéньне *n.* (*найчасьцéй перасьцярóга*)

**advocacy** ['ædvəkəsi] n. 1. засту́пніцтва *n.*; падтры́мка; прапагáнда *f.* 2. адвакáцтва *n.*

**advocate** ['ædvəkət] – n. 1. адвакáт -а *m.* 2. засту́пнік -а *m.*, засту́пніца *f.* 3. прыхíльнік -а; абарóнц|а -ы *m.*, абарóньніца *f.*: ***an advocate of independence*** абарóнца незалéжнасьці

– v.t. ['ædvəkeɪt] 1. абаранáць, падтры́мваць, адстóйваць. 2. прапагандавáць

**adz** or **adze** [ædz] – n. струг -а *m.*, скóбля *f.* (*для абчэ́сваньня бярвёнаў*)

– v.t. часáць бярвёны, стругáць

**aegis** ['i:dʒɪs] n. 1. Greek Myth. эгíда *f.* (*шчыт Зэ́ўса абó Атэ́ны*). 2. ахóва *f.*: ***the aegis of the law*** прáўная ахóва. 3. засту́пніцтва, кіраўнíцтва, апяку́нства *n.*; эгíда *f.*: ***a conference under the aegis of the United Nations*** канфэрэ́нцыя пад эгíдай Аб'éднаных Нáцыяў

**aeon** or **eon** ['i:ən] n. 1. вéчнасьць *f.* 2. Geol. ты́сяча мільёнаў гадóў

**aerate** [er'eɪt] v.t. 1. правéтрываць, вэнтылявáць. 2. насычáць гáзам, газавáць. 3. насычáць кісларóдам: ***Blood is aerated in the lungs*** Кроў у лёгкіх насычáецца кісларóдам

**aeration** [er'eɪʃən] n. 1. правéтраньне *n.*; насычэ́ньне павéтрам; аэрáцыя *f.*: ***aeration of the soil or water*** аэрáцыя глéбы абó вадаёму. 2. насычэ́ньне гáзам

**aerial** ['eriəl] – n. антэ́на *f.*

– adj. 1. павéтраны; авіяцы́йны: ***aerial spraying*** авіяцы́йнае распы́рскваньне 2. атмасфэры́чны, павéтраны. 3. надзéмны, павéтраны. 4. бяс-

плóтны, эфíрны; уя́ўны, незямны́; нябéсны

• ***aerial photograph*** аэрафотазды́мка

**aerialist** [ˈeriəlɪst] n. акрабáт -а *m.*, акрабáтка *f.* (*на трапэ́цыі*)

**aerie** or **aërie** [ˈeri] n. 1. вышы́ннае птушы́нае гняздó. 2. птушаня́ты ў такíм гнязьдзé. 3. дом *або* зáмак у ця́жкадасту́пных гарáх

**aerification** [ˌerɪfɪˈkeɪʃən] n. насычэ́ньне павéтрам

**aerify** [ˈerəfaɪ] v.t. 1. насычáць павéтрам. 2.ператварáць у пáру абó газ

**aerobatics** [ˌerəˈbætɪks] n. вышэ́йшы пілятáж, фігу́рныя палёты

**aerobics** [eˈroubɪks] n. аэрóбіка *f.*: ***aerobics improves one's physical condition*** аэрóбіка паляпшáе фізы́чны стан чалавéка

**aerodrome** [ˈerədroum] n. esp. Brit. лётнішча *n.*, аэрадрóм -у *m.*

**aerodynamics** [ˌeroudaɪˈnæmɪks] n. аэрадынáміка *f.*

**aerogram** [ˈerəgræm] n. 1. радыёгрáма *f.* 2. ліст павéтранай пóштай

**aeronaut** [ˈerənɔ:t] n. аэранáўт -а *m.* (*пілёт абó пасажы́р самалёту, балёну*)

**aeronautics** [ˌerəˈnɔ:tɪks] n. аэранáўтыка *f.*, навýка лётаў

**aeroplane** [ˈerəpleɪn] n., esp. Brit. самалёт -а *m.*

**aerosol** [ˈerəsɑ:l] n. аэразóль -ю *m.*

**aerospace** [ˈerouspeɪs] n. касьмíчная прастóра, кóсмас -у *m.*

**aerostat** [ˈeroustæt] n. аэрастáт -а *m.*

**aerostatics** [ˌerouˈstætɪks] n. аэрастáтыка *f.*

**aeruginous** [ɪˈru:dʒɪnəs] adj. сіне-зялёны (*кóлеру медзянóй іржы́*)

**aerugo** [ɪˈru:gou] n. медзянáя іржá *f.*

**aery** or **aëry** [ˈeri] – adj., Poet. лёгкі, як павéтра; эфíрны, бесьцялéсны, незямны́

– n., pl. **aeries**, *гл.* **aerie**

**Aeschylus** [ˈeskələs] n. Эсхíл -а *m.*

**Aeschylean** [ˌeskəˈli:ən] adj. Эсхíлаў

**Aesculapius** [ˌeskjəˈleɪpɪəs] n. 1. Эскуля́п -а *m.* (*ры́мскі бог мэдыцы́ны й лячэ́ньня*). 2. мэ́дык -а *m.*

**Aesop** [ˈi:sɑ:p] n. Эзóп -а *m.*

**Aesopian** [ˌi:ˈsoupiən] adj. Эзóпаў, эзóпаўскі: ***a fable in the Aesopian style*** бáйка ў эзóпаўскім сты́лі

**aesthete** [ˈesθi:t] n., *такс.* **esthete** эстэ́т -а *m.*, амáтар красы́

**aesthetic** [esˈθetɪk] adj., *такс.* **esthetic(al)** 1. эстэты́чны. 2. (*пра асóбу*) чу́лы на красу́. 3. (*пра рэ́чы*) у дóбрым гу́сьце, артысты́чны, прыéмны для вóка

**aesthetician** [ˌesθeˈtɪʃən] n. эстэ́тык -а *m.*, знáўца *абó* студэ́нт эстэ́тыкі

**aestheticism** or **estheticism** [esˈθetɪˌsɪzəm] n. эстэты́зм -у *m.*, эстэ́цтва *n.*

**aesthetics** [esˈθetɪks] n. эстэ́тыка *f.*

**aetiology** [ˌi:tɪˈɑ:lədʒi] n. *гл.* **etiology**

**afar** [əˈfɑ:r] adv. далёка, удалечыні́

• ***from afar*** здалёк: ***He saw me from afar*** Ён пабáчыў мянé здалёк

**affability** [ˌæfəˈbɪləti] n. абыхóдлівасьць, вéтласьць; далікáтнасьць; прыя́знасьць *f.*

**affable** [ˈæfəbəl] adj. 1. вéтлы; абыхóдлівы: ***a very friendly and affable man*** вéльмі прыя́зны й абыхóдлівы чалавéк. 2. прыéмны, далікáтны: ***an affable smile*** прыéмная ўсьмéшка

**affably** [ˈæfəbli] adv. вéтла, вéтліва, абыхóдліва; прыя́зна

**affair** [əˈfer] n. 1. спрáва *f.*: ***He has many affairs to look after*** Ён му́сіць займáцца шмат якíмі спрáвамі; ***That's my affair*** Гэ́та мая́ спрáва. 2. падзéя *f.*: ***a social affair*** грамáдзкая падзéя. 3. су́вязь *f.*: ***a love affair*** рамáн, любóўная су́вязь. 4. Figur. шту́ка *f.*: ***a complicated affair*** складáная, скамплікавáная шту́ка

**affect I** [əˈfekt] v.t. 1. дзéяць; уплывáць; мяня́ць, зьмяня́ць: ***The disease affected his mind*** Хварóба падзéяла на ягóны рóзум. 2. хвалявáць; звару́шáць; кранáць сэ́рца, закранáць: ***The news affected him*** Навíна ўсхвалявáла ягó; ***Nothing could affect him*** Нішто́ не кранáла ягó

**affect II** [əˈfekt] v.t. 1. удавáць, прыкíдвацца: ***affect ignorance*** удавáць ня-

вéданьне. 2. давáць перавáгу. 3. удавáць; напускáць вы́гляд: ***He affects carelessness in dress*** Ён нядбáйна адзяéцца

**affectation** [ˌæfekˈteɪʃən] n. 1. удавáньне *n.* 2. пóза, ненатурáльнасьць, манéрнасьць *f.*: ***Her little affectations seem silly*** Ейная манéрнасьць выглядáе сьмéшна

**affected I** [əˈfektɪd] adj. 1. крáнуты, закрáнуты. 2. Med. пашкóджаны (*хварóбай*). 3. усхвалявáны, узру́шаны; схíльны, настрóены: ***to be well affected towards*** быць прыхíльна настрóеным *да кагó-чагó*

**affected II** [əˈfektɪd] adj. 1. удавáны, ненатурáльны, штýчны: ***an affected manner*** крыўля́ньне *n.*, манéрнасьць *f.*: ***an affected tone of voice*** ненатурáльны тон гóласу. 2. які́ трымáецца ненатурáльна: ***He is too affected*** Ён занáдта ненатурáльны, штýчны

**affecting** [əˈfektɪŋ] adj. зварýшлівы, кранáльны: ***an affecting story of hunger and suffering*** зварýшлівы апóвед пра гóлад і цярпéньні

**affection** [əˈfekʃən] n. 1. прыхíльнасьць *f.*, падабáньне *n.*, лю́басьць, пяшчóтнасьць, любóў *f.*: ***the affection of a mother for her child*** мáтчына лю́басьць да дзіця́ці. 2. пачуцьцё *n.*, схíльнасьць *f.* 3. боль -ю *m.*; хварóба *f.*: ***an affection of the ear*** боль вýха

**affectional** [əˈfekʃənəl] adj. пачуцьцёвы

**affectionate** [əˈfekʃənət] adj. ласкáвы, пяшчóтны, чýльлíвы, чýлы; прыхíльны, лю́басны: ***an affectionate child*** лáскавае, пяшчóтнае дзіця́; ***an affectionate farewell*** чýлае разьвітáньне

**affectionately** [əˈfekʃənətli] adv. лáскава, лю́басна; зь лю́басьцяй

**affective** [æˈfektɪv] adj. пачуцьцёвы, эмацыянáльны

**afferent** [ˈæfərənt] adj. цэнтраімклíвы: ***afferent nerves*** цэнтраімклíвыя (*пачуцьцёвыя*) нэ́рвы

**affiance** [əˈfaɪəns] – v. заручáць, зарyчáцца

– n. зарýчыны *pl.*

**affidavit** [ˌæfɪˈdeɪvɪt] n. афідэ́віт -у *m.* (*пісьмóвая зая́ва пад прыся́гай*)

**affiliate** [əˈfɪlieɪt] – v.t. 1. далучáць, аб’яднóўваць, зьлівáць, улучáць у сыстэ́му. 2. усынаўля́ць

– v.i. далучáцца як ся́бра, запíсвацца: ***to affiliate with a political party*** уступíць у палітычную пáртыю

– n. [əˈfɪliət] 1. аддзéл -у *m.*, фíлія *f.* 2. арганізáцыя-кампаньён

**affiliation** [əˌfɪliˈeɪʃən] n. 1. спалучэ́ньне *n.*, сýвязь *f.* 2. партыйная прыналéжнасьць

**affined** [əˈfaɪnd] adj. 1. сварцкі, спарóднены. 2. зьвя́заны, злýчаны

**affinity** [əˈfɪnəti] n., pl. **-ties** 1. сымпáтыя *f.*, нахíл -у *m.*:, ця́га *f.*: ***an affinity for dancing*** нахíл да тáнцаў. 2. сымпáтыя *f.* (*асóба*). 3. сваяцтва *n.*, рóднасьць *f.* 4. падабéнства *n.*, блíзкасьць *f.*: ***the affinity of culture, language*** блíзкасьць культýры, мóвы. 5. Biol. сямéйнае падабéнства. 6. Chem. хімíчная рóднасьць

**affirm** [əˈfɛːrm] – v.t. 1. сьцьвярджáць, запэ́ўніваць, перакóнваць. 2. пацьвярджáць: ***to affirm the decision*** пацьвéрдзіць пастанóву

– v.i. ручáцца, цьвéрдзіць

**affirmation** [ˌæfərˈmeɪʃən] n. 1. сьцьвéрджаньне, упэ́ўненьне *n.* 2. пацьвéрджаньне *n.*, урачыстае запэ́ўненьне

**affirmative** [əˈfɛːrmətɪv] – adj. сьцьвярджáльны: ***an affirmative answer*** сьцьвярджáльны адкáз

– n. сьцьвéрджаньне *n.*: ***to reply in the affirmative*** адказáць сьцьвярджáльна

**affix** [əˈfɪks] – v.t. 1. прымацóўваць, наляпля́ць, наклéйваць: ***to affix a stamp to a letter*** наклéіць мáрку на ліст. 2. дадавáць, далучáць: ***to affix one's signature (to a letter)*** падпісáцца (*у канцы́ ліста́*). 3. стáвіць; прыкладáць: ***to affix a seal*** пастáвіць пячáтку. 4. Figur. прыпíсваць: ***to affix blame*** прыпісáць камý вінý

– n. [ˈæfɪks] дада́т|ак -ку *m.* 2. Gram. а́фікс -у *m.* (*прыста́ўка або́ су́фікс*)

**afflict** [əˈflɪkt] v.t. спрычыня́ць боль, му́чыць; засмуча́ць, непако́іць; турбава́ць; гры́зьці: ***The pangs of conscience afflicted him*** Яго́ му́чылі дако́ры сумле́ньня

**affliction** [əˈflɪkʃən] n. 1. бол|ь -ю *m.*; згрызо́та, паку́та *f.* 2. го́ра *n.*, бяда́ *f.*; няшча́сьце *n.*: ***the bread of affliction*** го́ркі хлеб

**afflictive** [əˈflɪktɪv] adj. балю́чы; прыгнята́льны

**affluence** [ˈæfluəns] n. 1. бага́цьце *n.*; даста́т|ак -ку *m.*, даста́ча *f.*: ***a country of great affluence*** ве́льмі бага́ты край. 2. вялі́кая ко́лькасьць, мно́ства *n.*: ***winter with its affluence of snows*** зіма́ зь вялі́кімі сьнягамі

**affluent** [ˈæfluənt] – adj. 1. замо́жны, бага́ты: ***an affluent person*** бага́ты, замо́жны чалаве́к. 2. Figur. даста́тны, шчо́дры: ***affluent harvest*** шчо́дры ўраджа́й

– n. прыто́к -а *m.* (*рэ́чкі*)

**afflux** [ˈæflʌks] n. прыто́к -у, напłы́|ў -ву *m.*

**afford** [əˈfɔːrd] v.t. 1. магчы́, мець магчы́масьць, дазваля́ць сабе́: ***We can't afford a new car*** У нас няма́ гро́шай на но́вае а́ўта; ***A busy man can't afford a delay*** Заня́ты чалаве́к ня мо́жа чака́ць. 2. дава́ць, забясьпе́чваць, прыно́сіць, радзі́ць: ***Our garden affords a good supply of fresh vegetables*** Наш гаро́д дае́ до́брыя збо́ры сьве́жае гаро́дніны; ***Reading affords pleasure*** Чыта́ньне дае́ прые́мнасьць

**afforest** [əˈfɔːrəst] v.t. садзі́ць лес; заса́джваць ле́сам

**afforestation** [əˌfɔːrəsˈteɪʃən] n. 1. паса́дка ле́су, аблясе́ньне *n.* 2. пло́шча, заса́джаная ле́сам

**affray** [əˈfreɪ] n. сва́рка, бо́йка *f.*, парушэ́ньне публі́чнага пара́дку

**affreightment** [əˈfreɪtmənt] n. фрахтава́ньне *n.*

**affricate** [ˈæfrɪkət] – n., Gram. афрыка́та *f.*

– adj. афрыкаты́ўны, шчы́лінны

**affront** [əˈfrʌnt] – n. абра́за *f.*, зьнява́га *f.*, афро́нт -у *m.*

– v.t. 1. публі́чна абража́ць, зьневажа́ць. 2. глядзе́ць у тва́р (*небясьпе́цы, сьме́рці*)

**affusion** [əˈfjuːʒən] n. аблiва́ньне *n.* (*вадо́й*)

**Afghan** [ˈæfgən] – n. 1. афга́н|ец -ца *m.*, афга́нка *f.* 2. пушту́ (*адна́ зь дзьвю́х галоўных мо́ваў Афганіста́ну*)

– adj. афга́нскі

• ***Afghan hound*** афга́нскі хорт

**afghan** [ˈæfgən] n. пле́цены ваўня́ны шаль *або́* по́сьцілка

**afield** [əˈfiːld] adv. 1. далёка ад до́му: ***far afield in foreign lands*** далёка ад ха́ты ў чужы́х краёх. 2. далёка ўбок: ***to go far afield*** зьбі́цца з даро́гі. 3. на по́лі бі́твы: ***to put an army afield*** вы́весьці во́йска на по́ле бі́твы

**afire** [əˈfaɪər] adv., adj. 1. у агні́: ***to be afire*** гарэ́ць, пала́ць агнём. 2. энтузія́сты́чна, з запа́лам

**aflame** [əˈfleɪm] adv., adj. 1. у по́лымі, у агні́. 2. Figur. палымя́ны: ***to be aflame with eagerness*** гарэ́ць ад нецярплі́васьці

**afloat** [əˈfloʊt] – adv. 1. на вадзе́, на мо́ры; на мо́рскай слу́жбе. 2. у дзе́яньні. 3. пры грашо́х

– adj. 1. які́ плыве́, трыма́ецца на вадзе́ ці ў паве́тры. 2. залі́ты, зато́плены: ***After the rain the whole cellar was afloat*** Пасьля́ дажджу́ ўве́сь падва́л быў залі́ты вадо́ю. 3. Figur. пашы́раны: ***Rumors of a revolt were afloat*** Хадзі́лі чу́ткі пра бунт

**afoot** [əˈfʊt] adv., adj. 1. пехато́ю; пе́ша: ***Did you come all the way afoot?*** Ці вы ўсю́ даро́гу йшлі́ пехато́ю? 2. на нага́х; у ру́ху, у пра́цы: ***Not a person in the house was yet afoot*** Ніхто́ яшчэ́ ў ха́це ня быў уста́ўшы; ***Preparations for dinner were afoot in the kitchen*** У ку́хні йшла́ падрыхто́ўка да абе́ду

**aforementioned** [əˌfɔːrˈmentʃənd] adj. *гл.* **aforesaid**

**aforesaid** [əˈfɔːrsed] adj. вышэйсказаны; вышэйпададзены; вышэйназваны

**aforethought** [əˈfɔːrθɔːt] adj. 1. абдуманы, сьвядомы. 2. наўмысны

**aforetime** [əˈfɔːrtaɪm] – adv. калісьці, калісь, некалі; бывала
– adj. колішні; даўні

**afraid** [əˈfreɪd] adj. баязьлівы: ***I am afraid*** баюся; ***She is afraid of the dark*** Яна баіцца цемры
• ***be afraid*** баяцца (*адчуваць шкадаваньне, неахвоту нешта сказаць*) ***I'm afraid you are wrong*** Баюся, вы памыляецеся; ***I'm afraid I'm late*** Баюся, я спазьніўся

**afresh** [əˈfreʃ] adv. нанова, яшчэ раз; ізноў

**African** [ˈæfrɪkən] – adj. афрыканскі
– n. афрыкан|ец -а *m.*, афрыканка *f.*

**Afrikaans** [ˌæfrɪˈkɑːns] n. афрыканс (*мова*)

**Afrikander** [ˌæfrɪˈkɑːndər] n. 1. *гл.* **Afrikaner.** 2. паўдзённа-афрыканская парода авечак

**Afrikaner** [ˌæfrɪˈkɑːnər] n. афрыканэр -а *m.* (*нашчадак галяндзкіх каляністараў у Паўдзённай Афрыцы*)

**aft** [æft] – adv., Naut. на карме, у бок кармы: ***fore and aft*** ад носа да кармы, на ўсю даўжыню (*карабля*)
– adj. кармавы, задні

**after** [ˈæftər] – prep. 1. па *чым*; праз *што* ***after supper*** па вячэры; ***after his arrival*** па ягоным прыезьдзе; ***after an hour*** праз гадзіну. 2. за *кім-чым*: ***day after day*** дзень за днём; ***They walked in line one after another*** Яны йшлі адзін за адным; ***Run after him*** Бяжы за ім. 3. пра *каго*: ***to ask after someone*** пытацца, даведвацца пра некага. 4. пасьля, дзеля: ***After all the lies she told, who could trust her?*** Пасьля ўсяе маны, што яна нагаварыла, хто можа ёй верыць? 5. нягледзячы на *што*: ***After all my trouble he has learned nothing*** Нягледзячы на ўсе мае стараньні, ён нічога не навучыўся. 6. паводле *чаго*, згодна з *чым*; у стылі, на манер, на ўзор *чаго*: ***after the same pattern*** паводле таго самага ўзору; ***after the latest fashion*** згодна з найнавейшай модай. 7. па, у гонар: ***He was named after his father*** Яго назвалі па бацьку
– adv. 1. ззаду, узадзе: ***to follow after*** ісьці ззаду. 2. пасьля, пазьней: ***three hours after*** тры гадзіны пазьней
– adj. пазьнейшы, наступны: ***In after years he regretted the mistakes of his boyhood*** У пазьнейшыя гады ён шкадаваў памылкі свайго юнацтва. 2. задні; бліжэйшы да кармы: ***the after sails*** заднія ветразі
– conj. калі; пасьля таго, як: ***Soon after he arrived he began to work*** Хутка пасьля таго, як ён прыехаў, ён пачаў працаваць
• ***after all*** усё ж, урэшце
• ***After you*** Толькі пасьля Вас!
• ***look after somebody*** даглядаць *каго*
• ***What is he after?*** Чаго яму трэба?; Што ён хоча?

**afterbirth** [ˈæftərbɜːrθ] n. Anat. пасьлед -у *m.*, пляцэнта *f.*

**aftercrop** [ˈæftərkrɑːp] n. другі ўраджай; атава *f.*

**afterdark** [ˈæftərdɑːrk] adj. вячэрні, начны: ***afterdark runs of the buses*** вячэрняе курсаваньне аўтобусаў

**afterdinner** [ˈæftərˌdɪnər] adj. паабедні, пасьля абеду: ***an afterdinner speech*** паабедняя прамова; ***afterdinner coffee*** паабедняя кава

**after-effect** [ˈæftərɪˌfekt] n. 1. пазьнейшы вынік. 2. пабочнае дзеяньне (*наркотыку, хваробы*)

**afterglow** [ˈæftərgloʊ] n. 1. зарыва па заходзе сонца. 2. Figur. прыемны ўспамін

**after-grass** [ˈæftərgræs], n. атава *f.*, трава на пожні

**after-image** [ˈæftərˌɪmɪdʒ] n. Psych. астаткавы вобраз

**afterlife** [ˈæftərlaɪf] n. 1. замагільнае, тагасьветнае жыцьцё. 2. пазьнейшае жыцьцё

**aftermath** [ˈæftərmæθ] n. насту́пствы *pl.* (*звычайна непрые́мныя*): ***The aftermath of war is hunger and disease*** Насту́пствы вайны́ — го́лад і хваро́бы

**aftermost** [ˈæftərmoust] adj. 1. апо́шні, са́мы за́дні. 2. Naut. найбліжэ́йшы да кармы́

**afternoon** [ˌæftərˈnu:n] – n. 1. час пасьля́ по́ўдня: ***in the afternoon*** папо́ўдні. 2. Figur. старэ́йшы век: ***in the afternoon of one's life*** пад ста́расьць, у гадо́х
– adj. пасьляпаўднёвы

**afterpains** [ˈæftərpeinz] n., pl. пасьляро́давыя бо́лі *pl.*

**aftertaste** [ˈæftərteist] n. пры́смак -у *m.*

**afterthought** [ˈæftərθɔ:t] n. 1. запо́зьненая ду́мка. 2. ро́здум -у *m.*: ***in afterthought*** пасьля́ ро́здуму

**aftertime** [ˈæftərtaim] n. бу́дучыня *f.*

**afterwards** [ˈæftərwərdz] adv. пасьля́, по́тым

**again** [əˈgen] adv. 1. ізно́ў, яшчэ́ раз: ***Try again*** Спрабу́й яшчэ́. 2. апрача́ таго́, прыты́м; да таго́: ***And then again, what do his fine words amount to?*** А прыты́м, да чаго́ ж зво́дзяцца яго́ныя прыго́жыя сло́вы? 3. з друго́га бо́ку, ізно́ў: ***These again are more expensive*** Гэ́тыя, ізно́ў жа — даражэ́йшыя
• ***again and again (time and again)*** ча́ста, няра́з
• ***as much again*** яшчэ́ раз гэ́тулькі

**against** [əˈgenst] prep. 1. супро́ць, су́праць; насупро́ць: ***against the law*** супро́ць зако́ну; ***against the wind*** супро́ць ве́тру. 2. па: ***Rain beats against the window*** Дождж б'е па вакне́. 3. да, на: ***over against the wall*** зьве́рнуты тва́рам да сьцяны́; ***against a background*** на фо́не; ***to save money against a rainy day*** ашчаджа́ць гро́шы на чо́рны дзень; ***to store up food against the winter*** запаса́цца е́жай на зіму́; ***to run against*** натыкну́цца на не́шта. 4. аб, на, да: ***She leaned against the fence*** Яна́ прыхіну́лася да пло́ту; ***a ladder leaning against the wall*** драбі́на, абапе́ртая на сьцяну́. 5. ад: ***protection against fire*** ахо́ва ад пажа́ру

**agamic** [əˈgæmik] adj. Biol. ага́мны, бяспо́лы

**agape** [əˈgeip] – adv. разя́віўшыся (*ад зьдзіўле́ньня ці нечака́насьці*)
– adj. шыро́ка адкры́ты, разя́ўлены: ***with mouth agape*** з разя́ўленым ро́там

**agate** [ˈægət] n. 1. ага́т -у *m.* 2. прыла́да да палірава́ньня. 3. Print. ага́т -у *m.* (*паме́р друка́рскага шры́фту*)

**agateware** [ˈægətwer] n. эмалява́нае судзьдзё

**agaze** [əˈgeiz] – adv. утаро́піўшы во́чы
– adj. з утаро́пленымі вачы́ма

**age** [eidʒ] – n. 1. век -у *m.* (*жыцьця́*): ***His age was 14*** Яму́ было́ 14 гадо́ў; ***The age of a horse is 24 to 30 years*** Ко́ні жыву́ць да 24 да 30 гадо́ў. 2. пэры́яд жыцьця́: ***old age*** стары́ век, ста́расьць. 3. эпо́ха *f.*: ***Galileo was in advance of his age*** Галіле́й вы́перадзіў сваю́ эпо́ху. 4. пакале́ньне *n.* 5. век -у *m.* (*пэры́яд у гісто́рыі*): ***the Middle Ages*** сярэдняве́чча *n.*: ***the atomic age*** а́тамны век. 6. э́ра *f.* (*пэры́яд у гісто́рыі зямлі*): ***the Ice Age*** ледаві́ковы пэры́яд, ледаві́ковая э́ра
– v.t. 1. рабі́ць стары́м, стары́ць: ***Worry ages a man*** Згрызо́ты ста́раць чалаве́ка. 2. высьпяля́ць, вы́сьпеліць, рабі́ць гато́вым для ўжыва́ньня: ***to age cheese for a year*** уле́жваць, высьпяля́ць сыр цэ́лы год
– v.i. 1. старэ́ць: ***He aged rapidly*** Ён ху́тка пастарэ́ў. 2. высто́йваць: ***The wine is put into oak casks to age*** Віно́ зьліва́юць у дубо́выя бо́чкі для высто́йваньня
• ***ages,*** pl. вякі́
• ***be (come) of age*** быць (ста́ць) даро́слым
• ***for ages*** ве́льмі даўно́: ***I haven't seen you for ages*** Ве́льмі даўно́ цябе́ ня ба́чыў

**aged** [ˈeidʒid] – adj. 1. стары́: ***the aged woman*** стара́я жанчы́на. 2. старэ́чы.

3. [ˈeɪdʒd] вы́сьпелы, уляжа́лы: ***aged cheese*** вы́сьпелы сыр. 4. [ˈeɪdʒd] у ве́ку: ***aged 50*** у ве́ку пяцьдзяся́т гадо́ў

– n. ***the aged*** [ˈeɪdʒɪd] старэ́йшыя лю́дзі, стары́я *pl.*: ***a home for the aged*** дом для стары́х; ***care for the aged*** дагля́д стары́х

**ageless** [ˈeɪdʒləs] adj. 1. які́ не старэ́е. 2. ве́чны, пракаве́тны, адве́чны: ***the ageless wisdom*** адве́чная му́драсьць

**agelong** [ˈeɪdʒlɔːŋ] adj. спрадве́чны, пракаве́тны, векавы́: ***agelong legend*** спрадве́чная леге́нда

**agency** [ˈeɪdʒənsi] n., pl. **-cies** 1. аге́нцтва *n.*: ***employment agencies*** аге́нцтвы пра́цы. 2. стара́ньне, пасярэ́дніцтва *n.*, дапамо́га *f.*: ***by the agency*** or ***through the agency*** пры дапамо́зе, дзя́куючы стара́ньням. 3. бюро́

**agenda** [əˈdʒendə] n. пара́дак дня

**agent** [ˈeɪdʒənt] n. 1. аге́нт -а, прадстаўні́к -а́, упаўнава́жан|ы -ага, адміні́стра́тар -а *m.* 2. та́йны аге́нт. 3. пасярэ́днік -а; фа́ктар -у, узбуджа́льнік -а *m.*: ***some mosquitos are agents of malaria*** некато́рыя камары́ — разно́сьнікі маляры́і. 4. Chem. рэ́чыва *n.*: ***a catalytic agent*** каталіза́тар. 5. сро́д|ак -ку *m.*: ***lubrication agent*** змá́звальны сро́дак

**agglomerate** [əˈglɑːməreɪt] – v.t. 1. зьбіра́ць у ку́чы, ма́су; нагрува́шчваць

– v.i. зьбіра́цца (*у ку́чу, ма́су*)

– adj. [əˈglɑːmərət] сабра́ны, згрува́шчаны

– n. Geol. аглямэра́т -у *m.*

**agglomeration** [əˌglɑːməˈreɪʃən] n. 1. a) нагрува́шчаньне *n.* б) нагрува́шчваньне *n.* 2. ма́са нагрува́шчаных рэ́чаў

**agglutinate** [əˈgluːtɪneɪt] – v.t. зьле́пліваць, скле́йваць

– v.i. 1. зьле́плівацца, скле́йвацца. 2. ператвара́цца ў клей

– adj. [əˈgluːtɪnət] 1. зьле́плены, скле́ены. 2. зьлі́ты: ***an agglutinate word (e.g. never-to-be-forgotten)*** зьлі́тае сло́ва

**agglutination** [əˌgluːtɪˈneɪʃən] n. 1. зьле́пліваньне, скле́йваньне *n.* 2. зьле́пленая ма́са. 3. аглютына́цыя *f.* (*тварэ́ньне сло́ва злучэ́ньнем ко́лькіх сло́ваў*)

**agglutinative** [əˈgluːtəneɪtɪv] adj. 1. кле́йкі: ***Glue is an agglutinative substance*** Клей — рэ́чыва, яко́е зьле́плівае. 2. (*пра мо́ву*) аглютынатыўная

**aggrandize** [əˈgrændaɪz] v.t. 1. павялі́чваць, пабо́льшваць (*ула́ду, сі́лу, бага́цьце*), павыша́ць ра́нг. 2. узвыша́ць

**aggrandizement** [əˈgrændɪzmənt] n. узьвелічэ́ньне, узвышэ́ньне *n.*

**aggravate** [ˈægrəveɪt] v.t. 1. паго́ршваць, узмацня́ць: ***His bad temper was aggravated by a headache*** Яго́ны благі́ настро́й паго́ршыўся ад бо́лю галавы́. 2. Informal злава́ць, раздражня́ць, дражні́ць

**aggravation** [ˌægrəˈveɪʃən] n. 1. паго́ршаньне, абвастрэ́ньне, узмо́цненьне *n.* 2. Law пагарша́льныя абста́віны. 3. злосьць *f.*, раздра́жненьне *n.*

**aggregate** [ˈægrɪgət] – n. 1. агу́льная ко́лькасьць, су́ма *f.* 2. аб'ядна́ная ма́са́, суку́пнасьць *f.*: ***in the aggregate*** ра́зам; у цэ́лым, суку́пна. 3. Geol. ска́лазро́стак, агрэга́т -у *m.*

– adj. 1. супо́льны, агу́льны: ***aggregate income*** супо́льны прыбы́так. 2. агрэга́тны, складны́

– v.t. [ˈægrɪgeɪt] злуча́ць, задзіно́чваць, аб'ядно́ўваць

– v.i. злуча́цца, задзіно́чвацца, аб'ядно́ўвацца

**aggregation** [ˌægrɪˈgeɪʃən] n. злучэ́ньне, задзіно́чаньне, аб'ядна́ньне *n.*

**aggress** [əˈgres] v.i. 1. напада́ць. 2. пачына́ць сва́рку

**aggression** [əˈgreʃən] n. 1. напа́д -у *m.*, агрэ́сія *f.* 2. агрэсі́ўнасьць *f.* 3. зама́х -у *m.*: ***aggression upon their liberties*** зама́х на і́хныя свабо́ды

**aggressive** [əˈgresɪv] adj. 1. захо́пніцкі, агрэсі́ўны; задзі́рлівы. 2. энэргі́чны, насто́йлівы: ***an aggressive campaign*** энэргі́чная кампа́нія: ***an aggressive person*** насто́йлівы чалаве́к

**aggressor** [əˈgresər] n. захóпнік -а, агрэ́сар -а *m.*

**aggrieve** [əˈgri:v] v.t. засмучáць; прыгнятáць, крыўдзіць

**aggrieved** [əˈgri:vd] adj. скрыўджаны; засмýчаны

**aghast** [əˈgæst] adj. спалóханы; аслупянéлы

**agile** [ˈædʒəl] adj. 1. жвáвы, рухáвы; спры́тны: ***An acrobat has to be agile*** Акрабáт павíнен быць спры́тны. 2. Figur. кéмлівы: ***an agile mind*** спры́тны рóзум

**agility** [əˈdʒɪləti] n. 1. жвáвасьць, рухáвасьць, спры́тнасьць, спрáўнасьць *f.*: ***the agility of a monkey*** спры́тны, як мáлпа. 2. Figur. гнýткасьць *f.*, спрыт -у *m.*: ***a great mental agility*** вялíкая гнýткасьць рóзуму

**aging** [ˈeɪdʒɪŋ] n. 1. старэ́ньне *n.*; працэ́с высьпéльваньня: ***the aging of meat (cheese)*** высьпéльваньне мя́са (сы́ру)

**agitate** [ˈædʒɪteɪt] v.t. 1. рýхаць; узварушáць, устрасáць. 2. хвалявáць, трывóжыць; непакóіць: ***to be agitated by the bad news*** усхвалявáцца благóю вéсткаю. 3. публíчна дыскутавáць; агітавáць: ***to agitate for a shorter working day*** агітавáць за карацéйшы працóўны дзень

**agitation** [ˌædʒɪˈteɪʃən] n. 1. хвалявáньне, узбуджэ́ньне *n.* 2. хвалявáньне *n.*, узбушавáнасьць *f.*: ***the agitation of the sea*** узбушавáнасьць мóра. 3. агітáцыя *f.*, публíчныя дыскýсіі, спрэ́чкі

**agitator** [ˈædʒɪteɪtər] n. 1. падбухтóрнік -а, агітáтар -а *m.* 2. Tech. мяшáлка *f.*

**agleam** [əˈgli:m] – adv. блíскатлíва, паблíскваючы; зіхóтка
– adj. блíскатлíвы, зіхатлíвы, зіхóткі: ***Christmas tree agleam with lights*** Ялíнка паблíсквала агня́мі

**aglet** [ˈæglət] n. бля́шка на канцы́ матузкá

**aglimmer** [əˈglɪmər] – adv. мігатлíва
– adj. мігатлíвы

**aglitter** [əˈglɪtər] – adv. у бля́ску, у зьзя́ньні
– adj. блíскýчы, блішчáсты

**aglow** [əˈgloʊ] – adv. у палымя́ным бля́ску
– adj. 1. палымя́на-блíскýчы. 2. распáлены дачы́рвана *абó* дабялá

**agnostic** [ægˈnɑ:stɪk] – n. агнóстык -а *m.*
– adj. агнасты́чны

**agnosticism** [ægˈnɑ:stɪˌsɪzəm] n. агнастыцы́зм -у *m.*

**ago** [əˈgoʊ] adj., adv. тамý: ***two years ago*** два гады́ тамý; ***long ago*** даўнó

**agog** [əˈgɑ:g] – adj. нецярплíвы, пáлкі; усхвалявáны, прання́ты: ***They were all agog to see her*** Ім не цярпéлася пабáчыць яе
– adv. нецярплíва; зь вялíкім жадáньнем, цікáвасьцяй; узбýджана

**agonize** [ˈægənaɪz] – v.i. 1. аганізавáць, мóцна пакýтаваць, цярпéць (*фізы́чна абó марáльна*). 2. Figur. рóспачна імкнýцца, змагáцца, мýчыцца: ***to agonize over a problem*** мýчыцца над праблéмай; бíцца, як ры́ба аб лёд
– v.t. мýчыць, зьдзéкавацца

**agony** [ˈægəni] n., pl. **-nies** 1. вялíкія пакýты, цярпéньні *pl.* (*духóвыя абó фізы́чныя*), рóспач *f.*: ***the agony of defeat*** рóспач стрáты
• ***the agonies*** агóнія *f.*, перадсьмярóтныя пакýты

**agoraphobia** [ˌægərəˈfoʊbiə] n. агорафóбія *f.*, бóязь адкры́тай прастóры

**agrarian** [əˈgreriən] – adj.1. агрáрны, зямéльны: ***agrarian laws*** зямéльныя закóны; ***an agrarian movement*** агрáрны рух (*у падтры́мку землярóбаў абó за разьвíцьцё землярóбства*). 2. земляррóбскі. 3. (*пра расьлíны*) дзíкí, палявы́
– n. прыхíльнік агрáрнае рэфóрмы

**agree** [əˈgri:] v.i. 1. згаджáцца: ***I agree with you*** Я згаджáюся з вáмі (табóю). 2. супадáць, быць аднóлькавым: ***Your story agrees with mine*** Твой рóспавед супадáе з маíм. 3. жыць у згóдзе, лáдзіць: ***They agree well*** Яны́ дóбра лáдзяць. 4. дамаўля́цца: ***at the agreed time*** у дамóўленым чáсе. 5. згаджа-

цца: ***to agree on the terms*** згадзíцца на ўмóвы. 6. Gram. дапасóўвацца: ***Verbs agree with nouns*** Дзеяслóвы дапасóўваюцца да назóўнікаў

– v.t. прызнавáць, дапушчáць: ***John agreed that he had been wrong*** Янка прызнáў, што ён памыляўся

• ***agree with*** быць карысным, ісьці на здарóўе: ***Wine does not agree with me*** Ад віна мне бывáе нядóбра

**agreeable** [əˈgri:əbəl] adj. 1. прыéмны: ***a charming and agreeable young man*** мілы й прыéмны малады чалавéк. 2. згавóрлівы; памяркóўны; згóдны: ***agreeable to the suggestion*** згóдны на прапанóву. 3. адпавéдны: ***music agreeable to the occasion*** мýзыка, адпавéдная для нагóды

**agreeably** [əˈgri:əbli] adv. 1. прыéмна. 2. адпавéдна

**agreed** [əˈgri:d] adj. згóдны; дамóўлены за агýльнай згóдай: ***Are you all agreed?*** Ці вы ўсé згóдныя?; ***to pay the agreed price*** заплацíць дамóўленую цанý

**agreement** [əˈgri:mənt] n. 1. згóда, згóднасьць *f.* 2. умóва *f.*, пагаднéньне *n.*: ***trade agreement*** гандлёвае пагаднéньне; ***to remove any obstacle to an agreement*** адхілíць усякую перашкóду да пагаднéньня. 3. Gram. дапасавáньне *n.* 4. сугýчнасьць, гармóнія, адпавéднасьць *f.*

**agricultural** [ˌægriˈkʌltʃərəl] adj. землярóбскі; сельскагаспадáрчы: ***an agricultural region*** землярóбскі раён; ***an agricultural college*** сельскагаспадáрчы калéдж

**agriculture** [ˈægrɪˌkʌltʃər] n. 1. землярóбства *n.* 2. сéльская гаспадáрка

**agriculturist** [ˌˈægrɪˈkʌltʃərɪst] n. 1. землярóб -а *m.* 2. агранóм -а *m.*

**agrimony** [ˈægrəmouni] n., pl. **-nies,** Bot. дзяды, дзядкí *pl.*

**agronomical** [ˌægrəˈnɑ:mɪkəl] adj. аграномíчны

**agronomics** [ˌægrəˈnɑ:mɪks] n. агранóмія *f.*

**agronomist** [əˈgrɑ:nəmɪst] n. агранóм -а *m.*, студэ́нт агранóміі

**agronomy** [əˈgrɑ:nəmi] n. агранóмія *f.*

**aground** [əˈgraʊnd] adv., adj. на мелінý; на мелінé: ***The ship ran aground*** Карабéль сеў на мелінý

**ague** [ˈeɪgju:] n. 1. малярыя, балóтная ліхамáнка *f.* 2. трáсца *f.*, дрыжыкі *pl.*

**aguish** [ˈeɪgjuɪʃ] adj. 1. малярыйны. 2. ліхамáнкавы. 3. дрыгóткі

**ah** [ɑ:] interj. а! ах !

**aha** [ɑ:ˈhɑ:] interj. агá !

**ahead** [əˈhed] adv. сьпéраду, напéрадзе; пéрад: ***Walk ahead of me*** Ідзí сьпéраду мянé

• ***get ahead*** Informal высунуцца напéрад, зрабíць кар'éру

• ***get ahead of*** перагнáць; выперадзіць

• ***Go ahead!*** а) Напéрад. б) Працягвайце, рабéце; Ідзéце; Гаварэ́це далéй: ***Go ahead with this work*** Працягвайце гэ́тую прáцу далéй

**aheap** [əˈhi:p] – adj. завáлены: ***a room aheap with books*** пакóй, завáлены кнíгамі

– adv. у кýчы, кýчай

**ahem** [əˈhem] interj. кхэ-кхэ (*какáшліваньне, каб прыцягнýць увáгу*)

**aid** [eɪd] – v. 1. дапамагáць; падтрымóўваць: ***to aid flood victims*** дапамагáць ахвярам павóдкі

– n. 1. дапамóга *f.* 2. памагáт|ы -ага; памóчнік -а *m.*, памóчніца *f.* 3. а) ад'ютáнт -а *m.* б) Brit. асыстэ́нт -а *m.*; асыстэ́нтка *f.*

• ***in aid of*** у падтрымку *каго-чаго*

**aide-de-camp** [ˌeɪddəˈkæmp] n., pl. **aides-** 1. ад'ютáнт -а *m.* 2. Brit., Informal асыстэ́нт (*у чáсе спэцыяльнай нагóды*)

**aide** [eɪd] n. 1. ад'ютáнт -а *m.* 2. асыстэ́нт, дарáднік-а *m.*: ***a presidential aide*** дарáднік прэзыдэ́нта

**AIDS** [eɪdz] n. СНІД -у *m.*

**aigrette** [ˈeɪgrət] n. плюмáж -ý, султáн -у *m.* (*аздóба на галавý*)

**aiguille** [ˈeɪgwi:l] n. сьпічáстая верхавíна, гóрскі пік

**ail** [eɪl] v. 1. балéць, далягáць: ***What ails you ?*** а) Што табé далягáе? б) У чым

*ўжы́тку ў ха́тняй гаспада́рцы*). 2. ужыва́ньне *n.*, ужы́т|ак -ку *m.*

**applicable** [əˈplɪkəbəl] adj. го́дны для ўжы́тку; адпаве́дны, які́ мае дачыне́ньне, датычны

**applicant** [ˈæplɪkənt] n. 1. про́сьбіт -а *m.* (*на пра́цу, пазы́ку*). 2. кандыда́т -а *m.*, кандыда́тка *f.* (*на пра́цу*)

**application** [ˌæplɪˈkeɪʃən] n. 1. ужыва́ньне, скарыста́ньне, дастасава́ньне *n.*: ***the application of your knowledge*** дастасава́ньне ва́шых ве́даў. 2. ма́заньне *n.*: ***application of an ointment to a chapped skin*** ма́заньне патрэ́сканае ску́ры ма́сьцю. 3. ужыва́ньне *n.*: ***a word of wide application*** сло́ва шыро́кага ўжыва́ньня. 4. зая́ва *f.*: ***application for the position*** зая́ва на паса́ду. 5. стара́ннасьць, руплі́васьць, адда́насьць *f.*: ***By application to his work he got a better position*** У вы́ніку руплі́васьці на пра́цы ён даста́ў ле́пшае стано́вішча. 6. кампу́тарная прагра́ма

**applicator** [ˈæplɪkeɪtər] n. апліка́тар -а *m.*

**applied** [əˈplaɪd] adj. прыкладны́, ужытко́вы, які́ выкарысто́ўваецца на пра́ктыцы: ***applied sciences*** прыкладны́я наву́кі; ***applied medicine*** прыкладна́я мэдыцы́на

**appliqué** [ˌæpləˈkeɪ] – n. апліка́цыя *f.*, нашы́тая аздо́ба
– v.t. нашыва́ць, аплікава́ць
– adj. аплікава́ны, нашыва́ны, нашы́ты

**apply** [əˈplaɪ] – v.t. 1. наклада́ць, пакрыва́ць, ма́заць: ***to apply varnish*** пакрыва́ць ла́кам. 2. ужыва́ць, тарнава́ць: ***to apply the rule*** тарнава́ць пра́віла. 3. аддава́цца *чаму́*; стара́цца, бра́цца: ***He applied himself to learning French*** Ён узя́ўся за вывучэ́ньне францу́скае мо́вы
– v.i. 1. тарнава́цца. 2. даты́чыць: ***This rule applies to all*** Гэ́тае пра́віла даты́чыць ўсі́х. 3. падава́ць зая́ву; прасі́ць: ***to apply for a job*** пада́ць зая́ву на пра́цу; ***They applied for help*** Яны́ прасі́лі дапамо́гі

**appoint** [əˈpɔɪnt] v.t. 1. прызнача́ць. 2. усталёўваць, вызнача́ць: ***A day was appointed for a meeting*** Быў вы́значаны дзень на сход. 3. аснашча́ць, забясьпе́чваць: ***well (badly) appointed*** до́бра (бла́га) асна́шчаны

**appointee** [əˌpɔɪnˈtiː] n. прызна́чаная асо́ба

**appointive** [əˈpɔɪntiv] adj. прызна́чаны

**appointment** [əˈpɔɪntmənt] n. 1. прызначэ́ньне *n.* (*на пра́цу, стано́вішча*); стано́вішча, ме́сца *n.* 2. прызначэ́ньне ча́су; дамо́ўленае спатка́ньне; візы́та *f.*: ***We made an appointment for tomorrow*** Мы дамо́віліся сустрэ́цца за́ўтра; ***I have an appointment to see the doctor*** У мяне́ прызна́чаны візы́т да ле́кара; ***to break an appointment*** не прыйсьці́ на прызна́чанае спатка́ньне
• ***appointments*** мэ́бля *f.*; абсталява́ньне *n.*

**apportion** [əˈpɔːrʃən] v.t. надзяля́ць, разьдзяля́ць

**apportionment** [əˈpɔːrʃənmənt] n. падзе́л -у *m.*, дзяле́ньне *n.*

**apposite** [ˈæpəzɪt] adj. адпаве́дны; тра́пны

**apposition** [ˌæpəˈzɪʃən] n. 1. прыклада́ньне *n.*: ***apposition of a seal*** прыклада́ньне пяча́ці. 2. Gram. прыда́т|ак -ку *m.*

**appraisal** [əˈpreɪzəl] n. ацэ́нка; ацэ́на *f.*

**appraise** [əˈpreɪz] v.t. 1. ацэ́ньваць: ***to appraise your ability*** ацані́ць ва́шыя здо́льнасьці. 2. расцэ́ньваць, ацэ́ньваць: ***Property is appraised for taxation*** Маёмасьць ацэ́неная для пада́ткаў

**appraisement** [əˈpreɪzmənt] n., *гл.* **appraisal**

**appreciable** [əˈpriːʃəbəl] adj. зна́чны; адчува́льны, заўва́жны, прыкме́тны

**appreciate** [əˈpriːʃieɪt] – v.t. 1. цані́ць; любі́ць; ацэ́ньваць: ***to appreciate classical music*** любі́ць клясы́чную му́зыку. 2. быць удзя́чным: ***We appreciate your help*** Мы ўдзя́чныя вам за дапамо́гу. 3. адчува́ць, адро́зьніваць: ***to appreciate even a very small differ-***

***ence in sounds*** адрóзьніваць нáват наймéншую рóзьніцу ў гýках. 4. павышáць цанý
– v.i. павышáцца ў цанé

**appreciation** [əˌpriːʃiˈeɪʃən] n. 1. ацэ́нка *f.* 2. высóкая ацэ́нка; налéжнае прызнáньне; разумéньне *n.* (*прыкл. мýзыкі*), удзя́чнасьць *f.* 3. дадáтная рэцэ́нзія, прыхíльны вóдгук. 4. рост вáртасьці

**appreciative** [əˈpriːʃətɪv] adj. які́ ўмéе ацанíць, вы́явіць прызнáньне

**apprehend** [ˌæprɪˈhend] v.t. 1. лавíць, арыштóўваць (*злóдзея*). 2. трывóжыцца. 3. разумéць

**apprehensible** [ˌæprɪˈhensəbəl] adj. зразумéлы, дахóдлівы, дастýпны (*для рóзуму*); успрымáльны

**apprehension** [ˌæprɪˈhenʃən] n. 1. асьцярóга *f.* 2. затрымáньне *n.*: ***the apprehension of a thief*** затрымáньне, арыштавáньне злóдзея. 3. разумéньне *n.*: ***It is beyond my apprehension*** Гэ́та вышэ́й за маё разумéньне

**apprehensive** [ˌæprɪˈhensɪv] adj. 1. насьцярóжаны, пóўны трывóгі, дрэ́ннага прадчувáньня. 2. кéмлівы, здóльны вучы́цца. 3. успрымáльны

**apprentice** [əˈprentɪs] – n. 1. чаля́днік -а *m.*, вýчань рамéсьніка *абó* мастакá. 2. навíчóк -кá, пачаткóвец -ўца *m.*
– v.t. аддавáць *абó* прымáць у навýку: ***They apprenticed their son to a blacksmith*** Яны́ аддалí свайгó сы́на ў навýку да каваля́

**apprenticeship** [əˈprentəsʃɪp] n. 1. вучнёўства, вучэ́ньне *n.* 2. тэ́рмін навучáньня

**apprise** [əˈpraɪz] v.t., *такс.* **apprize** паведамля́ць; накáзваць, інфармавáць: ***We apprised him of the change of date*** Мы паведамíлі ягó аб зьмéне дáты

**approach** [əˈproʊtʃ] – v.t. 1. падыхóдзіць, наблíжáцца; пад'яжджáць; падступáць: ***Troops approached the town*** Вóйскі падступíлі да гóраду; ***to approach a problem*** падыйсьцí да пытáньня. 2. быць падóбным, быць наблíжаным *да чагó*: ***The wind is approaching a gale*** Вéцер перахóдзіць у бýру. 3. рабíць прапанóву, пачынáць перамóвы: ***to approach someone with a suggestion*** зрабíць нéкаму прапанóву
– v.i. 1. зблíжáцца, надыхóдзіць: ***Winter approaches*** Надыхóдзіць зімá. 2. насóўвацца. 3. падступáцца
– n. 1. надыхóд -у *m.*, наблíжэ́ньне *n.*: ***the approach of night*** надыхóд нóчы. 2. дóступ -у *да кагó-чагó*, падыхóд -у *m.*: ***The approach to the house was a narrow path*** Падыхóд да хáты быў па вузкóй сьцéжцы. 3. прыблíжэ́ньне, наблíжэ́ньне *n.* 4. падыхóд -у, мэ́тад -у *m.*
• ***approaches,*** pl. пéршыя крóкі (*да пагаднéньня*), спрóбы -аў *pl.*

**approachable** [əˈproʊtʃəbəl] adj. 1. дастýпны (*пра мéсца*). 2. лёгкадастýпны: ***an approachable person*** лёгкадастýпны чалавéк, згавóрлівы чалавéк

**approbate** [ˈæprəbeɪt] v.t. ухваля́ць, апрабóўваць; зацьвярджáць

**approbation** [ˌæprəˈbeɪʃən] n. 1. ухвáла *f.*, прыхíльная дýмка. 2. зацьвéрджаньне *n.*, сáнкцыя, згóда *f.*: ***by approbation*** са згóды

**approbative** [ˈæprəbeɪtɪv] or **approbatory** [əˈproʊbətɔːri] adj. 1. які́ зацьвярджáе, афíцы́йна прыймáе. 2. які́ вы́казвае згóду, ухвáлу

**appropriate** [əˈproʊpriət] adj. адпавéдны, налéжны, мэтазгóдны

**appropriate** [əˈproʊprieɪt] v.t. 1. прызначáць (*для спэцыя́льнае мэ́ты*), асыгнóўваць. 2. прысвóйваць, прысабéчваць

**appropriately** [əˈproʊpriətli] adv. налéжна, адпавéдна

**appropriation** [əˌproʊpriˈeɪʃən] n. 1. прызначэ́ньне, асыгнавáньне *n.* (*грóшай*). 2. прысвóйваньне, прысабéчаньне *n.*

**approval** [əˈpruːvəl] n. 1. ухвалéньне *n.;* прыхíльная дýмка: ***He gave his approval to our plan*** Ён ухвалíў наш

плян. 2. зго́да *f.*; зацьве́рджаньне *n.*: ***on approval*** на зго́ду, на зацьве́рджаньне. 3. разгля́д -у *m.*, ацэ́нка *f.*: ***to submit for approval*** пада́ць на разгля́д

**approve** [ə'pru:v] – v.t.1. ухваля́ць. 2. зга-джа́цца, санкцыянава́ць, зацьвярджа́ць: ***Congress approved the bill*** Кангрэ́с зацьве́рдзіў зако́напраéкт. 3. пака́зваць, выяўля́ць. 4. пацьвярджа́ць, падмацо́ўваць. 5. хвалі́ць, захва́льваць, рэкамэндава́ць

– v.i. ухваля́ць: ***I approve of what you want to do*** Я ўхваля́ю то́е, што ты хо́чаш рабі́ць

**approximate** [ə'prɑ:ksɪmət] adj. 1. прыблі́зны: ***the approximate length*** прыблі́зная даўжыня́. 2. ве́льмі блізкі́. 3. ве́льмі падо́бны

**approximate** [ə'prɑ:ksɪmeit] v. 1. наблі-жа́ц|ь (-ца) да не́чага, блізу́ адпавяда́ць. 2. прыблі́зна раўня́цца

**approximately** [ə'prɑ:ksɪmətli] adv. блізу́; каля́; прыблі́зна

**approximation** [əˌprɑ:ksɪ'məɪʃən] n. 1. набліжэ́ньне *n.*: ***an approximation to the truth*** набліжэ́ньне да пра́ўды. 2. прыблі́зная велічыня́ (*су́ма, лік*)

**approximative** [ə'prɑ:ksəmeɪtɪv] adv. прыблі́зны, які́ набліжа́е

**appurtenance** [ə'pɜ:rtənəns] n. прыналéжнасьць *f.*; дада́т|ак -ку *m.*

• ***appurtenances*** а) прыналéжнасьці. б) апара́т -у, мэхані́зм -у *m.*: ***the appurtenances of war*** мэхані́зм вайны́

**appurtenant** [ə'pɜ:rtənənt] – adj. прыналéжны

– n. прыналéжная рэч, дада́т|ак -ку *m.*

**apricot** ['eɪprɪkɑ:t] – n. 1. абрыко́с -а *m.* 2. абрыко́савае дрэ́ва

– adj. абрыко́савы (*пра ко́лер*)

**April** ['eɪprəl] – n. красаві́к -á *m.*

– adj. красаві́ко́вы: ***April weather*** то дождж, то со́нца; Figur. то сьмех, то сьлёзы

**April Fools' Day** Пры́ма Апры́ліс, дзень ду́рняў

**a priori** [ˌɑ:pri'ɔ:ri] – adj. апрыёрны

– adv. апрыёры

**apron** ['eɪprən] – n. 1. фарту́х, хварту́х -á *m.* 2. запо́на *f.* (*у бры́чцы*). 3. Theatr. авансцэ́на *f.* 4. пляцо́ўка пе́рад анга́рам

– v. адзява́ць фарту́х

**apron strings** завя́зкі ў фартуху́

• ***be tied to one's mother's apron strings*** трыма́цца ма́тчынай спадні́цы

**apropos** [ˌæprə'poʊ] – adv. 1. дарэ́чы. 2. між і́ншым: ***apropos of*** што да

– adj. сво́ечасо́вы, адпаве́дны, слу́шны, дарэ́чны: ***an apropos remark*** слу́шная заўва́га, заўва́га дарэ́чы

**apse** [æps] n. Arch. апсы́да *f.*

**apt** [æpt] adj. 1. адпаве́дны, тра́пны: ***his apt reply*** яго́ны тра́пны адка́з; ***an apt quotation*** уда́лая цыта́та. 2. схі́льны: ***apt to do*** схі́льны не́шта рабі́ць. 3. здо́льны, зда́тны, уме́лы: ***Some pupils are more apt than others*** Нека-то́рыя ву́чні здальне́йшыя за і́ншых. 4. магчы́мы: ***Difficulties are more apt to occur*** Хутчэ́й за ўсё, мо́гуць паўста́ць ця́жкасьці

**aptitude** ['æptɪtu:d] n. 1. натура́льная схі́льнасьць, та́лент -у *m.*; зда́тнасьць *f.* 2. здо́льнасьць *f.*

**aptitude test** тэст, экза́мэн на здо́льнасьць

**aqualung** ['ɑ:kwəlʌŋ] – n. аквала́нг -а

**aquamarine** [ˌɑ:kwəmə'ri:n] – n. 1. аквамары́н -у *m.* (*ка́мень сіня́вата-зялё-нага ко́леру*). 2. сіня́вата-зялёны ко́лер

– adj. сіня́вата-зялёны, аквамары́навы

**aquaplane** ['ɑ:kwəpleɪn] – n. 1. аквапля́н -у *m.* (*до́шка для язды́ па вадзé*)

– v. е́зьдзіць на аквапля́не

**aqua regia** [ˌɑˌkwə'ri:dʒiə] n., Chem. ца́рская вада́ (*распуска́е зо́лата й пляты́ну*)

**aquarelle** [ˌɑ:kwə'rel] n. акварэ́ль *f.*

**aquarium** [ə'kweriəm] n., pl. **-iums, -ia** аква́рыюм -а *m.*

**aquatic** [ə'kwɑ:tɪk] – adj. во́дны, вадзяны́: ***aquatic plants*** вадзяны́я расьлі́ны

– n. вадзяна́я расьлі́на *або́* жывёліна
***aquatics*** вадзяны́ спорт
**aqua vitae** [ˌɑːkwə ˈvaɪti] n. 1. гарэ́лка *f.*, каньяк -у *m.*, брэ́нды *indecl.* 2. алькаго́л|ь -ю *m.*
**aqueduct** [ˈækwɪdʌkt] n. 1. аквэду́к -а *m.* 2. Anat. кана́л, праток, прахо́д -у *m.*
**aquiline** [ˈækwɪlaɪn] adj. 1. арлі́ны. 2. крывы́ (*як арлі́ная дзю́ба*): ***an aquiline nose*** арлі́ны нос.
**Arab** [ˈærəb] – n. 1. ара́б -а *m.*; ара́бка *f.* 2. ара́б (*ко́нская паро́да*)
– adj. ара́бскі
**arabesque** [ˌærəˈbesk] – n. 1. арабэ́ска *f.* (*арна́мэнт*). 2. арабэ́ска (*по́за ў бале́це*). 3. музы́чны твор
– adj. 1. арабэ́скавы. 2. вы́танчаны, вы́штукаваны
**Arabian** [əˈreɪbiən] – adj. ара́бскі
– n. 1. ара́б -а *m.*; ара́бка *f.* 2. конь ара́бскае паро́ды, ара́бскі конь
• ***Arabian camel*** драмадэ́р (*ара́бскі аднаго́рбы вярблю́д*)
• ***The Arabian Nights*** ка́зкі «Ты́сячы й адна́е но́чы»
**Arabic** [ˈærəbɪk] – adj. ара́бскі: ***Arabic architecture*** ара́бская архітэкту́ра
– n. ара́бская мо́ва
**Arabic numerals** or **figures** ара́бскія лі́чбы (1, 2, 3 і г.д.)
**arable** [ˈærəbəl] – adj. во́рны: ***arable land*** во́рная зямля́; ***arable strip of land*** го́ні *pl. only.*
– n. во́рная зямля́
**arachnid** [əˈræknɪd] n. павукападо́бная кузу́рка
**arachnoid** [əˈræknɔɪd] – adj. павуці́ністы, павуці́нны
– n. Anat. павуці́нная абало́нка (*мо́згу*)
**Aramaic** [ˌærəˈmeɪɪk] – n. арамэ́йская мо́ва
– adj. арамэ́йскі
**arbiter** [ˈɑːrbətər] n. 1. арбі́т|ар -ра *m.*; пасярэ́днік -а *m.* 2. трацэ́йскі судзьдзя́; арбі́т|ар -ра *m.*
**arbitrage** [ˈɑːrbɪtrɑːʒ] n. арбітра́ж -у *m.* (*на бі́ржы*)
**arbitral** [ˈɑːrbɪtrəl] adj. палюбо́ўны, арбітра́жны, трацэ́йскі: ***an arbitral decision*** палюбо́ўнае пагадне́ньне
**arbitrament** [ˌɑːrˈbɪtrəmənt] n. 1. арбітра́жная пастано́ва. 2. арбітра́ж -у *m.* (*пра́ва судзі́ць, рабі́ць пастано́вы*). 3. арбітра́цыя *f.*
**arbitrary** [ˈɑːrbətreri] adj. 1. самаво́льны, адво́льны: ***arbitrary decisions*** адво́льныя пастано́вы. 2. капры́зны, няпэ́ўны; зьме́нлівы: ***an arbitrary character*** капры́зны хара́ктар. 3. дэспаты́чны: ***an arbitrary king*** дэспаты́чны каро́ль
**arbitrate** [ˈɑːrbɪtreɪt] – v.i. 1. быць трацэ́йскім судзьдзёю, пасярэ́днічаць. 2. падава́ць на арбітра́цыю (*спра́ву*)
– v.t. ула́дзіць спра́ву шля́хам арбітра́цыі
**arbitration** [ˌɑːrbɪˈtreɪʃən] n. арбітра́цыя *f.*, вырашэ́ньне спрэ́чкі
**arbitrator** [ˈɑːrbətreɪtər] n. арбі́т|ар -ра *m.*, трацэ́йскі судзьдзя́
**arbor I**, Brit. **arbour** [ˈɑːrbər] n. жыва́я альта́нка
• ***Arbor Day*** Дзень дрэ́ўцаў
**arbor II** [ˈɑːrbər] n., Tech. вал -у *m.*, вось *f.*, шпі́ндэль машы́ны
**arboreal** [ɑːrˈbɔːriəl] adj. 1. які́ жыве́ на дрэ́вах, сяро́д дрэ́ваў: ***A squirrel is an arboreal animal*** Вавёрка — зьвяро́к, які́ жыве́ на дрэ́вах. 2. дрэвападо́бны; з дрэ́ва, дрэ́вавы
**arboreous** [ɑːrˈbɔːriəs] adj. 1. заса́джаны дрэ́вамі, зале́сены. 2. дрэ́ўны
**arborescent** [ˌɑːrbəˈresənt] adj. дрэ́вападо́бны; дрэ́вавы
**arboretum** [ˌɑːrbəˈriːtəm] n., pl. **-tums, -ta** [-tə] дрэ́вагадава́льнік -у *m.*
**arboriculture** [ˈɑːrbərɪˌkʌltʃər] n. гадо́ўля дрэ́ваў і кусто́ў, лесаво́дства *n.*
**arbour** [ˈɑːrbər] n., *гл.* **arbor I**
**arc** [ɑːrk] – n. дуга́ *f.*
– adj. дугавы́: ***arc lamp*** дугава́я ля́мпа
– v. ру́хацца дуго́ю
**arcade** [ɑːrˈkeɪd] n. 1. Arch. арка́да *f.* 2. гандлёвыя рады́. 3. за́ля для ві́дэагу́льняў

**Arcadian** [ɑ:rˈkeɪdiən] – adj. 1. аркадыйскі. 2. ідылічны
– n. 1. жыхар Аркадыі. 2. чалавек з простымі густамі

**arcane** [ɑ:rˈkeɪn] adj. таемны, таямнічы

**arch I** [ɑ:rtʃ] – n. 1. арка *f.* 2. Anat. пад'ём -у *m.* (*нагі*)
– v.t. 1. сагнуць у дугу: ***A cat arched its back*** Кот выгнуў сьпіну дугою. 2. тварыць дугу: ***A bridge arched the stream*** Мост дугой узносіўся над рэчкай
– v.i. выгінацца дугой

**arch II** [ɑ:rtʃ] adj. гарэзьлівы, гарэзны, гульлівы; хітраваты: ***an arch look*** гульлівы позірк

**arch-** pref. 1. галоўны, старшы: ***archenemy*** галоўны вораг. 2. заўзяты, страшэнны, вельмі вялікі: ***arch-liar*** страшэнны манюка; ***archconservative*** вельмі кансэрватыўны, рэакцыйны

**archaic** [ɑ:rˈkeɪɪk] adj. 1. архаічны. 2. старасьвецкі; старамодны, перастарэлы. 3. старажытны

**archaism** [ˈɑ:rkiˌɪzəm] n. архаізм -у *m.*

**archangel** [ˈɑ:rkˌeɪndʒəl] n. 1. арханел, арханёл -а *m.* 2. Bot. дзягіл|ь -ю *m.*

**archbishop** [ˌɑ:rtʃˈbɪʃəp] n. арцыбіскуп -а *m.* (*каталіцкі*), архіяпіскап -а *m.* (*праваслаўны*)

**archdeacon** [ˌɑ:rtʃˈdi:kən] n. архідыякан -а *m.*

**archdiocese** [ˌɑ:rtʃˈdaɪəsəs] n. япархія архіяпіскапа, архідыяцэзія *f.*

**archducal** [ˌɑ:rtʃˈdu:kəl] adj. эрцгэрцагскі

**archduchess** [ˌɑ:rtʃˈdʌtʃɪs] n. эрцгэрцагіня *f.*

**archduchy** [ˌɑ:rtʃˈdʌtʃi] n., pl. **-duchies** эрцгэрцагства *n.*

**archduke** [ˌɑ:rtʃˈdu:k] n. эрцгэрцаг -а *m.*

**archeological** [ˌɑ:rkiəˈlɑ:dʒɪkəl] adj. археалягічны

**archelogist** [ˌɑ:rkiˈɑ:lədʒɪst] n. археоляг -а *m.*

**archeology** [ˌɑ:rkiˈɑ:lədʒi] n. археалёгія *f.*

**archer** [ˈɑ:rtʃər] n. лучнік -а *m.*, стралок з лука

**Archer** [ˈɑ:rtʃər] n. Стралец -ьца *m.* (*знак задыяку*)

**archery** [ˈɑ:rtʃəri] n. 1. лучніцтва *n.* 2. лучнікі *pl.* 3. зброя лучнікаў

**archetype** [ˈɑ:rkitaɪp] n. прататып -у, архетып -у *m.*

**archimandrite** [ˌɑ:rkəˈmændraɪt] n. архімандрыт -а *m.*

**Archimedean** [ˌɑ:rkɪˈmi:diən] adj. архімэдаў: ***Archimedean screw*** архімэдава шруба

**Archimedes** [ˌɑ:rkɪˈmi:di:z] n. Архімэд -а *m.*

**archipelago** [ˌɑ:rkəˈpeləgoʊ] n., pl. **-gos** or **-goes** архіпэляг -у *m.*, група абтокаў

**architect** [ˈɑ:rkɪtekt] n. 1. архітэктар -а *m.* 2. Figur. творц|а -ы *m.* & *f.*: ***Everyman is the architect of his own destiny*** Кожны чалавек — будаўнік свайго лёсу

**architectonic** [ˌɑ:rkətəkˈtɑ:nɪk] adj. архітэктанічны, архітэктурны

**architectonics** [ˌɑ:rkətəkˈtɑ:nɪks] n. архітэктоніка *f.*

**architectural** [ˌɑ:rkɪˈtektʃərəl] adj. архітэктурны

**architecture** [ˈɑ:rkətektʃər] n. 1. архітэктура *f.* 2. стыль будаваньня. 3. пабудова *f.* 4. будын|ак -ку *m.*, будыніна *f.*; збудаваньне *n.*

**archival** [ɑ:rˈkaɪvəl] adj. 1. архіўны. 2. сабраны ў архіў, зьмешчаны ў архіве

**archive** [ˈɑ:rkaɪv], *usually* **archives** [ˈɑ:rkaɪvz] – n. 1. архі|ў -ву *m.*, архіўная калекцыя. 2. архі|ў -ву *m.* (*месца*)
– v.t. 1. зьбіраць у архіў. 2. Comput. архіваваць

**archivist** [ˈɑ:rkɪvɪst] n. архівіст -а *m.*, супрацоўнік архіву

**archway** [ˈɑ:rtʃweɪ] n. 1. праход пад аркай. 2. арка *f.*

**Arctic** [ˈɑ:rktɪk] – adj. 1. арктычны, палярны, паўночны: ***the Arctic fox*** палярны ліс. 2. арктычны, сьцюдзёны
– n. ***the Arctic*** Арктыка *f.*

**Arctic Circle** Палярны круг

**ardency** [ˈɑ:rdənsi] n. 1. запал -у *m.*, палкасьць *f.* 2. стараннасьць, шчырасьць *f.* (*у працы*)

**ardent** [ˈɑːrdənt] adj. 1. поўны запалу, энтузіястычны; палкі; стара́нны, шчы́ры: ***an ardent student of history*** стара́нны студэ́нт гісто́рыі; ***ardent speech*** па́лкая прамо́ва. 2. гару́чы, пяку́чы; агні́сты; палымя́ны; гара́чы • ***ardent spirits*** мо́цныя алькаго́льныя напо́і

**ardently** [ˈɑːrdəntli] adv. го́рача, з запа́лам, энтузіясты́чна

**ardor**, Brit. **ardour** [ˈɑːrdər] n. пал, запа́л -у *m.*; ця́га *f.*, вялі́кі энтузія́зм: ***patriotic ardor*** патрыяты́чны запа́л

**arduous** [ˈɑːrdʒuəs] adj. 1. цяжкі́ для выкана́ньня, стамля́льны: ***an arduous lesson*** цяжка́я ле́кцыя. 2. стро́мкі: ***an arduous hill*** стро́мкі ўзго́рак

**are I** [ɑːr; unstressed ər] v. *мно́жны лік дзеясло́ва* to be: ***you are*** вы ёсьць; ***we are*** мы ёсьць

**are II** [er] n. ар -а *m.* 100 м² (*ме́ра зяме́льнай пло́шчы*)

**area** [ˈeriə] n. 1. пло́шча *f.*: ***area of a triangle*** пло́шча трыку́тніка. 2. по́ле дзе́яньня, прасто́ра *f.*, абся́г -у *m.*, сфэ́ра *f.*; галіна́ *f.*: ***the area of physics, chemistry*** галіна́ фі́зыкі, хі́міі. 3. раён -у *m.*, зо́на, мясцо́васьць, вако́ліца *f.*, краі́й -ю *m.*, абша́р -у *m.*: ***residential area*** жылы́ раён. 4. пляц -у *m.*, пляцо́ўка, дзяля́нка *f.*: ***playground area*** дзіця́чая пляцо́ўка

**area code** тэлефо́нны код

**area rug** дыванło̲к -ка́ *m.*

**arena** [əˈriːnə] n. 1. арэ́на (*цыркава́я, спарто́вая*) *f.*: ***boxing arena*** рынг -у *m.* 2. ме́сца дзе́яньня; ***political arena*** паліты́чная арэ́на

**arenaceous** [ˌærɪˈneɪʃəs] adj. пяшча́ны

**aren't** [ɑːrnt] *скаро́чанае* **are not**

**areology** [ˌæriˈɑːlədʒi] n. марсазна́ўства *n.* (*вывучэ́ньне плянэ́ты Марс*)

**arete** [əˈreɪt] n. грэ́бень гары́

**argentiferous** [ˌɑːrdʒənˈtɪfərəs] adj. срэбрано́сны: ***an argentiferous ore*** срэ́бная руда́

**Argentinian** [ˌɑːrdʒənˈtɪniən] – adj. аргенты́нскі

– n. аргенты́н|ец -ца *m.*, аргенты́нка *f.*

**argentine** [ˈɑːrdʒəntaɪn] – adj. 1. срэ́бны. 2. серабры́сты

– n. 1. срэ́бра *n.* 2. серабры́сты мэта́л *або́* рэ́чыва

**argil** [ˈɑːrdʒɪl] n. глі́на *f.*

**argillaceous** [ˌɑːrdʒɪˈleɪʃəs] adj. глі́ністы

**argon** [ˈɑːrgɑːn] n., Chem. арго́н -у *m.*

**argosy** [ˈɑːrgəsi] n., pl. **-sies**, Poet. 1. гандлёвы карабе́ль. 2. флёт з такі́х караблёў

**argot** [ˈɑːrgoʊ] n. 1. жарго́н -у *m.*, арго́ *n., indecl.*: ***prisoners' argot*** турэ́мны жарго́н

**arguable** [ˈɑːrgjuːəbəl] – adj. 1. спрэ́чны. 2. магчы́мы, дапушча́льны

**arguably** [ˈɑːrgjuːəbli] – adv. магчы́ма, дапушча́льна

**argue** [ˈɑːrgjuː] – v.i. 1. спрача́цца. 2. даво́дзіць: ***He argued for independence*** Ён даво́дзіў патрэ́бу незале́жнасьці

– v.t. 1. разгляда́ць: ***to argue a question*** разгляда́ць пыта́ньне. 2. перако́нваць, даво́дзіць; цьве́рдзіць: ***Columbus argued that the world was round*** Калю́мб цьве́рдзіў, што сьвет кру́глы

**argument** [ˈɑːrgjəmənt] n. 1. спрэ́чка *f.*: ***to win the argument*** вы́йграць спрэ́чку. 2. дава́ньне до́ваду, аргумэнта́цыя *f.*, спрэ́чкі *pl.*: ***to waste time in argument*** тра́ціць час на спрэ́чкі. 3. до́вад, аргумэ́нт -у *m.*

**argumentation** [ˌɑːrgjəmənˈteɪʃən] n. 1. аргумэнта́цыя *f.*, разважа́ньне *n.* 2. спрэ́чкі *pl.*, дыску́сія *f.*

**argumentative** [ˌɑːrgjəˈmentətɪv] adj. 1. які́ лю́біць спрача́цца, дыскутава́ць: ***an argumentative disposition*** схі́льны да спрэ́чак. 2. спрэ́чны

**aria** [ˈɑːriə] n. а́рыя *f.*

**arid** [ˈærɪd] adj. 1. сухі́, перасо́хлы; вы́сушаны; засу́шлівы; бязво́дны, я́лавы; неўрадлі́вы: ***arid region*** неўрадлі́вы раён. 2. ну́дны, неціка́вы: ***an arid field of study*** суха́я галі́на наву́кі

**aright** [əˈraɪt] adv. пра́вільна, до́бра

**arise** [əˈraɪz] v.i. **arose, arisen, arising** 1. устава́ць. 2. падыма́цца, узно́сіцца:

***Smoke arises from the chimney*** З коміна падымáецца дым. 3. паўставáць; узьнікáць: ***if the need should arise*** калí ўзьнíкне патрэ́ба. 4. вынікáць *з чагó*, быць вы́нікам *чагó*: ***Accidents arise from carelessness*** Вы́падкі ёсьць вы́нікам неасьцярóжнасьці. 5. уваскрасáць

**arista** [əˈrɪstə] n. **-tae**, Bot. асьцю́к -á *m.*

**aristocracy** [ˌærɪˈstɑ:krəsi] n., pl. **-cies** арыстакрáтыя *f.*

**aristocrat** [əˈrɪstəkræt] n. арыстакрáт -а *m.*, арыстакрáтка *f.*

**aristocratic** [əˌrɪstəˈkrætɪk] adj. арыстакраты́чны

**Aristotelian** [ˌærɪstəˈti:liən] – adj. арыстóтэлеўскі
– n. пасьлядóўнік Арыстóтэля *абó* ягóнае філязóфіі

**Aristotle** [ˈærɪstɑ:təl] n. Арыстóтэл|ь -я *m.*

**arithmetic** [əˈrɪθmətɪk] – n. арытмэ́тыка *f.*, лічэ́ньне *n.*
– adj. [ˌærɪθˈmetɪk] арытмэты́чны

**arithmetical** [ˌærɪθˈmetɪkəl] adj. 1. арытмэты́чны. 2. згóдны з прáвіламі арытмэ́тыкі: ***arithmetical mean*** сярэ́дняе арытмэты́чнае; ***arithmetical progression*** арытмэты́чная прагрэ́сія

**arithmetician** [əˌrɪθməˈtɪʃən] n. арытмэ́тык -а *m. & f.*

**ark** [ɑ:rk] n. Bibl. áрка *f.*, вялíкі карабéль: ***Noah's ark*** Нóева áрка

**arm I** [ɑ:rm] n. 1. рукá *f.*; (*перадплéчча*): ***infant in her arms*** дзіця́ ў яé на рукáх. 2. рукавó, крылó *n.*: ***arm of a coat*** рукавó палітá. 3. сíла *f.*; ўлáда *f.*: ***the long arm of the law*** уседася́жная сíла закóну. 4. вялíкая галíнá (*дрэ́ва*). 5. пóручlань -ня *m.*, пóручні, парэ́нчы *pl.* (*крэ́сла*)
• ***arm in arm (with)*** рукá ў рукý, пад рýку
• ***at arm's length*** здалёк ад сябé, на адлéгласьці
• ***twist one's arm*** выкрýчваць рýкі, прымушáць
• ***with open arms*** шчы́ра, адкры́та, з распасьцéртымі рукáмі

**arm II** [ɑ:rm] – n. 1. збрóя *f.* 2. род вóйска (*áрмія, флёт ці лётніцтва*): ***air arm*** павéтраная збрóя
– v.t. 1. узбрóйваць, збрóіць: ***to arm a vessel*** узбрóіць карабéль. 2. пакрывáць бранёю. 3. настаўля́ць (*запáл*)
– v.i. 1. узбрóйвацца, збрóіцца. 2. рыхтавáцца; запасáцца: ***to be armed with patience*** запасьцíся цярплíвасьцю

**armada** [ɑ:rˈmɑ:də] n. 1. флёт ваéнных караблёў. 2. флёт самалётаў

**armament** [ˈɑ:rməmənt] n. 1. узбраéньне *n.* 2. збрóйныя сíлы (*áрмія, флёт*). 3. узбраéньні *pl.*

**armature** [ˈɑ:rmətʃʊr] n. 1. Elec. а) я́кар -у *m.* б) браня́ *f.* (*кáбэля*). 2. Art арматýра *f.* 3. Zool., Bot. абарóнны панцы́р

**armband** [ˈɑ:rmbænd] n. нарукáўная павя́зка

**armchair** [ˈɑ:rmtʃer] – n. фатэ́ль -я *m.*
– adj. 1. Figur. тэарэты́чны, кабінэ́тны (*не практы́чны*): ***an armchair strategist*** стратэ́г-тэарэ́тык

**armed** [ɑ:rmd] adj. узбрóены, збрóйны: ***armed forces*** збрóйныя сíлы (*áрмія, флёт, лётніцтва*): ***armed robbery*** збрóйны рабýнак

**Armenian** [ɑ:rˈmi:niən] – adj. армя́нскі
– n. 1. армянíн -а *m.*, армя́нка *f.* 2. армя́нская мóва.

**armful** [ˈɑ:rmfʊl] n. бярэ́мя *n.*

**armhole** [ˈɑ:rmhoʊl] n. вы́раз на рукý *абó* рукавó

**armiger** [ˈɑ:rmɪdʒər] n. 1. гэ́рбавы шлях-ціц. 2. збраянóсlец -ца *m.*

**arming** [ˈɑ:rmɪŋ] n. збрóеньне *n.*, баёвая падрыхтóўка

**armistice** [ˈɑ:rmɪstɪs] n. замірэ́ньне, перамíр'е *n.*

**armless I** [ˈɑ:rmləs] adj. 1. бязрýкі. 2. без галíнаў

**armless II** бяз збрóі; безабарóнны

**armlet** [ˈɑ:rmlət] n. 1. нарукáўная павя́зка. 2. залílў -ву *m.*, затóка *f.*

**armor**, Brit. **armour** [ˈɑ:rmər] – n. 1. пáнцыр -а *m.* 2. браня́ *f.* (*карабля́, тáнка*). 3. бранясíлы, пáнцырныя

сíлы. 4. браня́ ка́бэлю; скафа́нд|ар -ра *m.* 5. па́нцыр -а *m.* *(чарапа́хі)*

– v. пакрыва́ць бранёю, узбро́йваць

**armorer** [ˈɑːrmərər] n. збро́йнік -а, збраяро́б -а *m.*

**armored**, Brit. **armoured** [ˈɑːrmərd] adj. 1. пакры́ты бранёю. 2. бранята́нкавы: ***an armored division*** бранята́нкавая дыві́зія

• ***armored cable*** забясьпе́чаны электры́чны ка́бель

• ***armored car*** бранявíк, бронеаўтамабíль

• ***armored force*** бранясíлы

**armorial** [ɑːrˈmɔːriəl] adj. гэральды́чны; гэ́рбавы

**armory** [ˈɑːrməri] n., pl. **-ries** 1. арсэна́л -у *m.* 2. збро́евая майстэ́рня, збро́евы заво́д. 3. буды́нак для муштры́ вайско́ўцаў. 4. гэра́льдыка *f.*

**armpit** [ˈɑːrmpɪt] n. па́ха *f.*, па́хавая я́мка

**armrest** [ˈɑːrmrest] n. падлако́тнік -а *m.*

**arms** [ˈɑːrmz] n. 1. збро́я *f.* 2. змага́ньне *n.* 3. гэрб -у *m.*

• ***arms control*** кантро́ль над узбрае́ньнямі

• ***arms race*** го́нка ўзбрае́ньняў

• ***bear arms*** а) служы́ць у во́йску. б) мець гэрб

• ***lay down arms*** скла́сьці збро́ю

• ***take up arms*** узьня́ць збро́ю

• ***to arms!*** да збро́і!

**arm-wrestling** [ˈɑːrmˌrestlɪŋ] n. ду́жаньне на рука́х

**army** [ˈɑːrmi] n., pl. **-mies** 1. а́рмія *f.*; во́йска *n.* 2. Figur. мно́ства *n.*, вялі́кая ко́лькасьць: ***an army of ants*** мно́ства мура́шак

**arnica** [ˈɑːrnɪkə] n. Bot., Med. 1. а́рніка *f.* *(расьлі́на)*. 2. Med. ле́кавая ва́дкасьць з а́рнікі

**aroma** [əˈroʊmə] n. во́дар, пах -у *m.*; духмя́насьць *f.*, арама́т -у *m.*, спэцыфі́чны пах: ***the aroma of freshly ground coffee*** пах сьве́жазмо́латае ка́вы

**aromatic** [ˌærəˈmætɪk] adj. 1. во́дарны, паху́чы, духмя́ны. 2. араматы́чны

**around** [əˈraʊnd] – prep. 1. вако́л; наво́кал, наўко́л(а), з усі́х бако́ў: ***around the garden*** наво́кал гаро́ду; ***a coat around her shoulders*** палітó, накі́нутае на пле́чы. 2. Informal па: ***to walk around the town*** хадзі́ць па го́радзе. 3. Informal блі́зка, каля́: ***Please stay around the house*** Калі́ ла́ска, бу́дзьце блі́зка до́му. 4. каля́, прыблі́зна: ***around five dollars*** каля́ пяцёх даля́раў; ***around three o'clock*** каля́ трэ́йцяе гадзі́ны. 5. за: ***around the corner*** за ро́гам; за рог

– adv. 1. наўко́ла, круго́м, наво́кал: ***to spin around*** круці́цца наво́кал. 2. у абхва́це: ***The tree measures five meters around*** Дрэ́ва ма́е пяць мэ́траў у абхва́це. 3. усю́ды, наво́кал: ***A dense fog lay around*** Усю́ды была́ імгла́. 4. Informal тут, непадалёку: ***Wait around awhile*** Пачака́йце тут не́дзе хвілі́ну. 5. наза́д: ***Turn around!*** Павярні́ся наза́д; ***I'll see you around*** Паба́чымся

**around-the-clock** [əˌraʊndðəˈklɑːk] adj. безупы́нны, пра́зь дзень і ноч

**arousal** [əˈraʊzəl] n. прабуджэ́ньне *n.*; узбуджэ́ньне *n.*

**arouse** [əˈraʊz] – v.t. 1. будзі́ць: ***The noise aroused him*** Го́ман разбудзі́ў яго́. 2. узбуджа́ць: ***to arouse suspicion*** узбуджа́ць, выклі́каць падазрэ́ньне. 3. пабуджа́ць, уздыма́ць: ***to arouse to action*** пабуджа́ць да дзе́яньня

– v.i. прачына́цца; прабуджа́цца, узбуджа́цца *(пра пачуцьцё)*

**arrack** [ˈærək] n. ара́к -у *m.* *(алькаго́льны напо́й)*

**arraign** [əˈreɪn] v.t. 1. прыцягваць да судо́вай адка́знасьці. 2. абвінава́чваць

**arraignment** [əˈreɪnmənt] n. 1. прыцягне́ньне да судо́вай адка́знасьці. 2. абвінава́чваньне, вінава́чаньне *n.*

**arrange** [əˈreɪndʒ] – v.t. 1. уклада́ць; расстаўля́ць, разьмяшча́ць; ула́джваць: ***to arrange books on a shelf*** укла́сьці кні́гі на палі́цы; ***to arrange in alphabetical order*** разьмясьці́ць у альфа-

бэ́тным пара́дку. 2. плянава́ць, рыхтава́ць: ***We arranged the meeting*** Мы падрыхтава́лі пасе́джаньне. 3. узгадня́ць: ***He arranged it with her*** Ён узгадні́ў гэ́та зь ёю. 4. Music. прыстасо́ўваць; перакладáць, аранжава́ць: ***This music for violin is also arranged for piano*** Гэ́тыя но́ты для скры́пкі аранжава́ныя таксáма для піяні́на
– v.i. 1. ула́джваць, ула́джвацца: ***Can you arrange to see him tomorrow?*** Ці вы змо́жаце ўла́дзіць, каб пабачы́цца зь ім заўтра?; ***to arrange for a taxi*** замо́віць таксі́. 2. пагаджа́цца; умаўля́цца: ***We arranged to meet at six*** Мы ўмо́віліся сустрэ́цца а шо́стай

**arrangement** [əˈreɪndʒmənt] n. 1. уклада́ньне, (у)пара́дкаваньне, разьмяшчэ́ньне, разьмеркава́ньне *n.* 2. плян -у *m.*, камбіна́цыя *f.* 3. ула́джаньне, пагадне́ньне *n.*; дамо́ўленасьць *f.*: ***They came to an arrangement*** яны́ дамо́віліся. 4. перапрацо́ўка, адапта́цыя *f.*; прыстасава́ньне *n.* 5. Music. аранжыро́ўка *f.*
• ***arrangements***, pl. пля́ны, падрыхтава́ньні: ***to make arrangements for a journey*** падрыхтава́цца да падаро́жжа

**arrant** [ˈærənt] adj. відаво́чны, і́сны, жахлі́вы: ***an arrant liar*** відаво́чны маню́ка; ***arrant nonsense*** і́снае глу́пства, і́сная лухта́

**array** [əˈreɪ] – n. 1. строй -ю *m.*: ***battle array*** баявы́ строй. 2. пака́з -у *m.*, выста́ва, кале́кцыя *f.*; збор -у *m.*: ***an array of wedding gifts*** збор вясе́льных падару́нкаў. 3. убра́ньне *n.*, строй для ўрачы́стае наго́ды: ***bridal array*** убра́ньне маладу́хі. 4. Comput. масі́ў -ву *m.*
– v.t. 1. выстро́йваць, ста́віць стро́ем (*жаўне́раў*). 2. прыстро́йваць; апрана́ць, убіра́ць

**arrears** [əˈrɪərz] n., pl. 1. адстава́ньне, запазьне́ньне *n.*: ***His work is in arrears*** Ён адста́ў у пра́цы. 2. даўгі́ *pl.*, запазы́чанасьць *f.*

**arrest** [əˈrest] – v.t. 1. арышто́ўваць. 2. затры́мваць; спыня́ць: ***arrested development*** затрыма́нае разьвіцьцё. 3. зьвяртáць, захапля́ць, прыко́ўваць: ***to arrest someone's attention*** захапі́ць не́чую ўва́гу
– n. 1. а́рышт -у *m.*; зьняво́леньне *n.* 2. спыне́ньне, затрыма́ньне *n.*

**arris** [ˈærɪs] n. во́йстрая грань, во́йстры ка́нт

**arrival** [əˈraɪvəl] n. 1. прые́зд, прыхо́д -у *m.*, прыбыцьцё *n.*; надыхо́д -у *m.* 2. прышэ́л|ец -ьца *m.*, пры́шл|ы -ага *m.*; новапрыбы́л|ы -ага *m.*: ***The new arrival is a boy*** Нованаро́джаны — хло́пчык

**arrive** [əˈraɪv] v.i. 1. прыбыва́ць; прыхо́дзіць; прыязджа́ць: ***to arrive by air*** прыляце́ць. 2. надыхо́дзіць, прыхо́дзіць, настава́ць: ***The time has arrived*** Наста́ў час. 3. рабі́ць кар'е́ру; праслаўля́цца, рабі́цца вядо́мым: ***to arrive as an actor*** здабы́ць сла́ву акто́ра. 4. нарадзі́цца
• ***arrive at a conclusion*** прыйсьці́ да высно́вы
• ***arrive at a decision*** прыня́ць пастано́ву

**arrogance** [ˈærəgəns] n. ганары́стасьць *f.*; напы́шлівасьць, пы́ха *f.*; наха́бства *n.*, фанабэ́рыстасьць *f.*

**arrogant** [ˈærəgənt] adj. 1. празьме́рна ганары́сты, фанабэ́рысты; пыхлі́вы, наха́бны. 2. саманадзе́йны

**arrogate** [ˈærəgeɪt] v.t. 1. беспадста́ўна прысво́йваць, бяспра́ўна забіра́ць, прысабе́чваць: ***to arrogate a privilege*** прысво́йваць прывіле́і. 2. мець беспадста́ўныя прэтэ́нзіі

**arrow** [ˈæroʊ] n. 1. страла́ *f.*: ***bow and arrow*** лук і страла́. 2. стрэ́лка *f.* (*што пака́звае кіру́нак*)

**arrowhead** [ˈæroʊhed] n. наканцо́ўе *n.*, вастрыё стралы́

**arsenal** [ˈɑːrsənəl] n. арсэна́л -у *m.*, склад збро́і і ваённай амуні́цыі

**arsenic** [ˈɑːrsənɪk] – n. мыш'я́к -у́ *m.*
– adj. мыш'яко́вы

**arson** [ˈɑːrsən] n. падпа́л -у *m.* (*умы́сны, злачы́нны*)

**art I** [ɑ:rt] – n. 1. мастáцтва *n.*: ***fine arts*** прыгóжыя мастáцтвы. 2. ***arts,*** pl. галíна навучáньня: ***the faculty of arts*** факультэ́т гуманітáрных навýкаў. 3. рамяствó *n.*: ***the industrial arts*** ремёствы. 4. майстрóўства *n.*: ***art of printing*** майстрóўства дрýку. 5. спрытнасьць *f.*, спрыт -у *m.*; умéльства *n.*: ***the art of making friends*** умéльства здабывáньня сябрóў
– adj. мастáцкі

**art II** [ɑ:rt] v., Archaic = **are** (*used only with* **thou**): ***thou art*** ты ёсьць

**artefact,** *гл.* **artifact**

**Artemis** [ˈɑ:rtɪmɪs] n., Myth. Артэмíда *f.*, багíня палявáньня

**arterial** [ɑ:rˈtɪriəl] adj. артэрыя́льны: ***the arterial walls*** сьцéнкі артэ́рыяў. 2. магістрáльны, галóўны: ***an arterial highway*** магістрáльная аўтастрáда

**arteriosclerosis** [ɑ:rˌtɪriouskləˈrousəs] n. артэрыясклерóз -у *m.*

**artery** [ˈɑ:rtəri] n., pl. **-teries** 1. артэ́рыя *f.* 2. магістрáль *f.*, галóўны шлях

**artesian** [ɑ:rˈti:ʒən] adj. артэзія́нскі

**artful** [ˈɑ:rtfəl] adj. 1. спрáўны, разýмны: ***artful handling of a situation*** разýмнае вядзéньне спрáвы. 2. хíтры; круцéльскі, махля́рскі. 3. штýчны

**arthritic** [ɑ:rˈθrɪtɪk] – adj. артрыты́чны
– n. артры́тык -а *m.*, атрыты́чка *f.*

**arthritis** [ɑ:rˈθraɪtəs] n. артры́т -у *m.*

**artichoke** [ˈɑ:rtətʃouk] n. артышóк -у *m.*

**article** [ˈɑ:rtɪkəl] n. 1. прадмéт -у *m.*, рэч *f.*, прадýкт, вы́раб, тавáр -у *m.*: ***article of food*** прадýкт харчавáньня; ***article of furniture*** прадмéт мэ́блі, мэ́баль. 2. арты́кул -у *m.* 3. пункт -у *m.* (*кóдэксу, умóвы*): ***leading article*** перадавíца. 4. Gram. арты́кль -я *m.*: ***Belarus(i)an nouns have no articles*** Беларýскія назóўнікі ня мáюць арты́кляў

**articular** [ɑ:rˈtɪkjələr] adj. сустáўны: ***Arthritis is an articular disease*** Артры́т — хварóба сустáваў

**articulate** [ɑ:rˈtɪkjələt] – adj. 1. вырáзна вымаўля́ны: ***articulate speech*** вырáзная вымóва. 2. здóльны я́сна выкáзвацца. 3. вырáзны, я́сна вы́казаны. 4. калéнчаты; сустáўчаты; членíсты: ***The backbone is an articulate structure*** Сьпíнны хрыбéт мáе членíстую будóву
– v.t. [ɑ:rˈtɪkjəleɪt] вырáзна вымаўля́ць
– v.i. вырáзна гавары́ць

**articulated** [ɑ:rˈtɪkjəleɪtəd] калéнчаты; сустáўчаты; шарнíрны

**articulation** [ɑ:rˌtɪkjəˈleɪʃən] n. 1. вымаўлéньне *n.*, артыкуля́цыя *f.* 2. сустáў -ва *m.* 3. спалучэ́ньне сустáвамі, сучлянéньне *n.*

**artifact** [ˈɑ:rtɪfækt] n. артыфáкт -у *m.*, ручны́ вы́раб

**artifice** [ˈɑ:rtɪfɪs] n. 1. спры́тная вы́думка, хíтрыкі *pl.* 2. ашукáнства *n.*, падмáн -у *m.*

**artificer** [ɑ:rˈtɪfəsər] n. 1. мáйстра -ы *m.*, рамéсьнік -а *m.*; кваліфікавáны рабóтнік. 2. вынахóднік -а *m.*

**artificial** [ˌɑ:rtɪˈfɪʃəl] adj. 1. штýчны, ненатурáльны: ***artificial flowers*** штýчныя квéткі. 2. няшчы́ры, фальшы́вы

**artificially** [ˌɑ:rtɪˈfɪʃəli] adv. 1. штýчна, ненатурáльна. 2. няшчы́ра, фальшы́ва

**artificiality** [ˌɑ:rtəˌfɪʃiˈæləti] n., pl. **-ties** 1. штýчнасьць, ненатурáльнасьць *f.* 2. прытвóрнасьць, фальшы́васьць *f.*

**artillery** [ɑ:rˈtɪləri] *n.* артылéрыя *f.*

**artilleryman** [ɑ:rˈtɪlərimæn] n., pl. **-men** артылеры́ст -а, кананíр -а *m.*

**artisan** [ˈɑ:rtəzən] n. рамéсьнік -а *m.*, рамéсьніца *f.*, мáйстрa -ы *m.*

**artist** [ˈɑ:rtəst] n. 1. мастáк -á *m.*, мастáчка *f.* 2. арты́ст -а *m.*, арты́стка *f.*

**artiste** [ɑ:rˈti:st] n. 1. эстрáдны арты́ст. 2. мáйстра сваé спрáвы

**artistic** [ɑ:rˈtɪstɪk] adj. артысты́чны; мастáцкі

**artistry** [ˈɑ:rtɪstri] n., pl. **-ries** артысты́зм -у *m.*, артысты́чныя здóльнасьці, майстэ́рства *n.*

**artless** [ˈɑ:rtləs] adj. 1. неартысты́чны; неабвýчаны, некваліфікавáны. 2. нявíнны, адкры́ты, няхíтры, прóсты, на-

і́ўны. 3. натура́льны, няшту́чны: ***artless beauty*** натура́льная прыгажо́сьць

**artsy** [ˈɑ:rtsi] adj., Informal з прэтэ́нзіяй на маста́цкасьць

**Aryan** [ˈeriən] – adj. ары́йскі, індаэўрапе́йскі

– n. ары́ец -йца *m*., ары́йка *f*.

**as** [æz; *unstressed* əz] – conj. 1. каб: ***He came early so as to meet us*** Ён прыйшо́ў рана, каб пабачыцца з на́мі. 2. хоць, як ні, які́ б ні: ***Cunning as he is, he won't deceive me*** Які ён ні хі́тры, мяне́ ён не ашука́е. 3. як; так, як: ***do as you are told*** рабе́це, як вам ска́зана; ***white as snow*** бе́лы, як сьнег. 4. як; у ро́лі; у я́касьці: ***as friends*** як сябры́; ***to appear as Hamlet*** выступа́ць у ро́лі Га́млета; ***to work as a teacher*** працава́ць наста́ўнікам; ***to die as a slave*** паме́рці нево́льнікам. 5. калі́, у той час, як: ***He came in as I was speaking*** Ён увайшо́ў, калі́ я прамаўля́ў. 6. бо: ***He could not stay, as it was late*** Ён ня мог заста́цца, бо было́ по́зна. 7. як напры́клад: ***some animals, as the fox and the wolf*** некато́рыя зьвяры́, як напры́клад лісі́ца й воўк

– pron. 1. што, які́, як: ***I had the same trouble as you*** Я меў той са́мы кло́пат, што й ты; ***He is a writer, as is his wife*** Ён пісьме́ньнік, як і яго́ная жо́нка. 2. як, што: ***He lost, as you know*** Ён прайграў, як вы ве́даеце.

• ***as... as*** такса́ма як: ***He is as tall as you are*** Ён тако́га са́мага ро́сту, як і вы

• ***as far as*** да; нако́лькі; яшчэ́: ***as far as I know*** нако́лькі я ве́даю; ***as far as 1920*** яшчэ́ ў 1920 го́дзе; ***as soon as you can*** як то́лькі змо́жаце

• ***as for*** што даты́чыць

• ***as from*** пачына́ючы ад

• ***as good as*** факты́чна; блізу́; усё ро́ўна што: ***The work is as good as done*** Рабо́та факты́чна зако́нчаная

• ***as if*** як бы́ццам, ні́быта, ні́бы, як

• ***as is*** як ёсьць, у цяпе́рашнім ста́не

• ***as it were*** так сказа́ўшы

• ***as much*** так і; гэ́так і: ***I thought as much*** Я гэ́так і ду́маў

• ***as regards*** што да, што даты́чыць

• ***as soon as*** як то́лькі

• ***as though = as if*** бы́ццам

• ***as to*** каб: ***as to impress*** каб зрабі́ць ура́жаньне

• ***as well*** такса́ма: ***I can do it as well*** Я такса́ма магу́ гэ́та зрабі́ць

• ***as well as*** у дада́так; а такса́ма: ***The room is light as well as airy*** Пако́й сьве́тлы, а такса́ма до́бра праве́траны

• ***as yet*** дагэ́туль, паку́ль што: ***Nothing has been done as yet*** Дагэ́туль нічо́га ня зро́блена

**asbestos** [æsˈbestəs] – n. асбэ́ст-у *m*.

– adj. асбэ́ставы: ***asbestos gloves*** асбэ́ставыя рукаві́цы

**ascend** [əˈsend] – v.i. падніма́цца, узьніма́цца, уздыма́цца; узыхо́дзіць (*пра со́нца*): ***The airplane ascended higher and higher*** Самалёт узьніма́ўся вышэ́й і вышэ́й; ***The sun ascended slowly*** Со́нца паво́лі ўзыхо́дзіла. 2. Mus. павыша́цца (*пра тон*)

– v.t. 1. узла́зіць, узьніма́цца, уздыма́цца (*на гару́*): ***to ascend Mount Everest*** узьня́цца на гару́ Эвэрэст. 2. узыхо́дзіць (*на пасад*). 3. ісьці́ ўверх (*па рацэ́*)

**ascendancy** [əˈsendənsi] n. перава́га *f*.; дамі́нуючая пазы́цыя; панава́ньне *n*.

**ascendant** or **-ent** [əˈsendənt] – adj. 1. які́ дамі́нуе, пану́е: ***ascendant position in world politics*** дамі́нуючае стано́вішча ў сусьве́тнай палі́тыцы. 2. узыхо́дны, які́ ўзыхо́дзіць (*пра зо́рку, со́нца*)

– n. 1. перава́га *f*.; дамі́нуючая пазы́цыя: ***to be in the ascendant*** мець перава́гу; узыхо́дзіць. 2. пра́шчур -а *m*.

**ascension** [əˈsenʃən] n. 1. узыхо́джаньне, уздыма́ньне *n*.; узьня́цьце *n*. 2. усхо́д -у *m*. (*нябе́снага це́ла*)

**Ascension Day,** Relig. Узьнясе́ньне Гаспо́дняе, Ушэ́сьце *n*.

**ascensive** [əˈsensɪv] adj. 1. узыхо́дны (*у гару́*). 2. Gram. павелі́чальны; узмацня́льны (*напр. су́фікс*)

**ascent** [əˈsent] n. 1. узьбіра́ньне (*на гару́*). 2. узыхо́джаньне, узьніма́ньне, падня́цьце *n.*, узьлёт -у *m.*: ***the ascent of the airplane*** узьлёт самалёта. 3. стро́мкасьць *f.*, градые́нт -а *m.*: ***an ascent of ten degrees*** стро́мкасьць на 10 гра́дусаў

**ascertain** [ˌæsərˈteɪn] v.t. канстатава́ць; выясьня́ць; устанаўля́ць; сьцьвярджа́ць, пацьвярджа́ць; упэ́ўнівацца: ***to ascertain the situation*** вы́ясьніць абста́віны

**ascertainment** [ˌæsərˈteɪnmənt] n. сьцьве́рджаньне, устанаўле́ньне, выясьне́ньне *n.*

**ascetic** [əˈsetɪk] – n. аске́т -а *m.*, аске́тка *f.*
– adj. аскеты́чны; стры́маны

**asceticism** [əˈsetɪsɪzəm] n. аскеты́зм -у *m.*, самаадмаўле́ньне -я *n.*

**ascorbic** [əˈskɔːrbɪk] adj. аскарбі́навы. ***ascorbic acid*** аскарбі́навая кіслата́, віта́мін С

**ascribe** [əˈskraɪb] v.t. прыпі́сваць

**asepsis** [ˌeɪˈsepsɪs] n. асэ́птыка *f.*

**aseptic** [ˌeɪˈseptɪk] adj. асэпты́чны (*абеззара́жаны*), дэзынфікава́ны

**asexual** [ˌeɪˈsekʃuəl] adj., Bot. бяспо́лы

**ash I** [æʃ] – n. 1. по́пел -у *m.*: ***Ash Wednesday*** Папяльцо́вая Серада́. 2. ко́лер по́пелу
– v.i. спапяля́цца
• ***ashes*** 1. по́пел -у *m.*: ***hot ashes*** пры́сак -у *m.* 2. це́ла нябо́жчыка, аста́нкі, парэ́шткі *pl. only*; тло *n.*, прах -у *m.*; пыл -у *m.*: ***to turn to dust and ashes*** рассы́пацца ў пыл, спарахне́ць. 3. руі́ны *pl.*

**ash II** [æʃ] n. я́сень -я *m.*

**ashamed** [əˈʃeɪmd] adj. засаро́млены: ***to be ashamed of something*** саро́мецца *чаго́*; ***to be ashamed for someone*** саро́мецца за *каго́*; ***He was ashamed to tell the truth*** Яму́ было́ со́рамна сказа́ць пра́ўду; ***He became ashamed*** Яму́ ста́ла со́рамна

**ashcan** [ˈæʃkæn] n. вядро́ на сьмяцьцё, по́пел

**ashen I** [ˈæʃən] adj. 1. папялі́сты; бляды́, бле́дны як сьме́рць. 2. по́пельны; з по́пелу

**ashen II** [ˈæʃən] adj. я́сеневы; зь я́сеню

**ashlar** [ˈæʃlər] n. 1. каме́нныя блёкі для будава́ньня. 2. буды́ніна з тако́га ка́меню

**ashore** [əˈʃɔːr] adv. 1. да бе́рагу, на бе́раг. 2. на бе́разе; на су́шы

**ashtray** [ˈæʃtreɪ] n. по́пельніца, по́пелка *f.*

**ashy** [ˈæʃi] adj. 1. папялі́сты, бле́дны як по́пел. 2. з по́пелу; по́пельны. 3. пакры́ты по́пелам

**Asian** [ˈeɪʒən] – adj. азія́цкі: ***Asian flu*** азія́цкі грып– n. азія́т -а *m.*, азія́тка *f.*

**Asiatic** [ˌeɪʒiˈætɪk] adj. азія́цкі

**aside** [əˈsaɪd] – adv. 1. набо́к; убо́к; збо́ку: ***to put aside*** адкла́сьці набо́к; ***Move the table aside*** Адсу́нуць стол набо́к; ***to stand aside*** стая́ць збо́ку
– n. 1. заўва́га, ска́заная напаўго́ласа: ***His low aside was overheard*** Яго́ заўва́га, ска́заная напаўго́ласа, была́ ўсё ж пачу́тая. 2. сло́вы, гаво́раныя акто́рам убо́к
• ***aside from*** асо́бна; апрача́, акрамя́

**asinine** [ˈæsɪnaɪn] adj. 1. асьлі́ны, як асёл. 2. дурны́, упа́рты

**ask** [æsk] – v.t. 1. пыта́ць, пыта́цца: ***to ask the way*** пыта́цца даро́гі; ***Ask him how old he is*** Спыта́йцеся ў яго́, ко́лькі яму́ гадо́ў. 2. прасі́ць: ***to ask permission*** прасі́ць дазво́лу. 3. запро́шваць, дамага́цца: ***to ask too high a price*** запро́шваць зана́дта высо́кую цану́. 4. запраша́ць; зваць: ***She asked her friends to come to her house*** Яна́ запрасі́ла сваі́х сябро́ў да сябе. 5. вымага́ць, патрабава́ць: ***This job asks hard work*** Гэ́тая паса́да вымага́е ця́жкае пра́цы; ***It asks for attention*** Гэ́та вымага́е ўва́гі
– v.i. 1. прасі́ць: ***to ask for help*** прасі́ць дапамо́гі. 2. пыта́цца, даве́двацца: ***Did anyone ask for me?*** Ці не́хта пыта́ўся пра мяне́?
• ***ask a riddle*** зага́дваць, задава́ць зага́дку

• ***ask for it*** = ***to ask for trouble*** шукáць бяды́; лéзьці на ражóн

• ***ask out*** запрашáць нéкага (*на спаткáньне*)

**askance** [əˈskæns] adv. недавéрліва, незадавóлена, падазрóна, скóса: ***to look askance at someone*** глядзéць на нéкага скóса

**askew** [əˈskjuː] – adv. кóса, крыва: ***The picture is hanging askew*** Карціна вісіць крыва
– adj. крывы́, кóсы, касы́

**aslant** [əˈslænt] – adv. укóсна, кóса; наўскася́к, наўскасы́, наўкóс
– prep. упóперак, наўкóс
– adj. укóсны

**asleep** [əˈsliːp] adj., adv. 1. сьпя́чы: ***to fall asleep*** засынáць, заснýць. 2. няўвáжны; вя́лы, нясьвéдамы: ***He is asleep to the danger*** Ён нясьвéдамы небясьпéкі. 3. тупы́: ***His mind is asleep*** У ягó тупы́ рóзум. 4. здранцьвéлы, зьнямéлы: ***My arm is asleep*** У мянé здранцьвéла рукá. 5. мёртвы

**aslope** [əˈsloʊp] – adv. пахíла, пахíлена; кóса; на схíле, на спáдзе
– adj. пахíлы, кóсы

**asocial** [əɪˈsoʊʃəl] adj. 1. неграмáдзкі. 2. нетавáрыскі

**asp** [æsp] n. ядавíтая зьмяя́

**asparagus** [əˈspærəgəs] n. Bot. спáржа *f.*

**aspect** [ˈæspekt] n. 1. глéдзішча *n.*; бок -у *m.*; аспэ́кт -у *m.*: ***to consider a question in all aspects*** разглядáць пытáньне з усíх бакóў. 2. вы́раз твáру, вы́гляд, пагля́д -у *m.* 3. від *m.* (*у пэ́ўным кірýнку*). 4. бок -у *m.*: ***the western aspect of the house*** захóдні бок дóму. 5. Gram. трывáньне *n.*: ***imperfective aspect*** незакóнчанае трывáньне. 6. Astrol. фáза *f.*

**aspen** [ˈæspən] – n. асíна *f.*
– adj. 1. асíнавы: ***to tremble like an aspen leaf*** дрыжэ́ць, як асíнавы ліст. 2. Figur. дрыгóткі

**asperge** [əˈspɜːrdʒ] v.t. пы́рскаць, крапíць

**aspergilum** [ˌæspərˈdʒɪləm] n., pl. **-gilla** or **-lums** крапíла *n.*

**asperity** [æˈsperəti] n., pl. **-ties** 1. нярóўнасьць, шурпáтасьць, шóрсткасьць *f.* 2. рэ́зкасьць, грубія́нскасьць, неачэ́санасьць *f.*: ***the asperity in his voice*** рэ́зкасьць у ягóным гóласе. 3. сурóвасьць, вóйстрасьць *f.*: ***the asperities of a very cold winter*** сурóвасьць сьцюдзёнай зімы́

**asperse** [əˈspɜːrs] v.t. 1. крапíць; пы́рскаць. 2. рабíць паклёпы *на какó*, гáньбіць, ганьбавáць, няслáвіць, зьнеслаўля́ць

**aspersion** [əˈspɜːrʒən] n. 1. краплéньне (*вадóю*), пы́рсканьне *n.* 2. паклёп -у *m.*: ***You should not cast aspersions upon an innocent man*** Ты не павíнен кíдаць паклёпы на невінавáтага чалавéка. 3. паклёпнічаньне *n.*

**asphalt** [ˈæsfɔːlt] – n. асфáльт -у *m.*
– v. асфальтавáць– adj. асфáльтавы: ***an asphalt highway*** асфáльтавая аўтастрáда; ***asphalt jungle,*** Informal асфáльтавыя джýнглі, чáстка гóраду, у якóй учыня́ецца шмат злачы́нстваў

**asphodel** [ˈæsfədəl] n., Bot. 1. асфадэ́л|ь -ю *m.*; нарцы́з -у *m.* 2. Myth. неўмірýчая кветка з палёў Элізэ́йскіх

**asphyxia** [æsˈfɪksiə] n. Med. удушэ́ньне ад нястáчы кíсларóду, асфíксыя *f.*

**asphyxiate** [əsˈfɪksieɪt] v. душы́ц|ь (-ца) (*ад недахóпу кісларóду*)

**aspirant** [ˈæspərənt] – n. кандыдáт -а *m.*; прэтэндэ́нт -а *m.*, прэтэндэ́нтка *f.*: ***aspirants for the office of mayor*** прэтэндэ́нты на пасáду мэ́ра
– adj. які́ імкнéцца *да чагó*, прэтэндýе на *што*

**aspirate** [ˈæspəreɪt] – v.t. 1. вымаўля́ць з прыдыхáньнем. 2. Med. выдаля́ць вáдкасьць высóсваньнем (*з пóласьці цéла*)
– n. [ˈæspərət] прыдыхáльны гук
– adj. прыдыхáльны

**aspiration** [ˌæspəˈreɪʃən] n. 1. імкнéньне *n.*, мóцнае жадáньне; амбíцыя *f.* 2. удыхáньне *n.*; уды́х -у *m.*, дыхáньне *n.* 3. прыдыхáньне *n.*, прыдыхáльны гук. 4. Med. асьпірáцыя *f.*, высóсваньне вáд-

касьці ці паве́тра з по́ласьці це́ла. 5. усмо́ктваньне, прысмо́ктваньне, сса́ньне *n.*
**aspire** [əˈspaɪər] v.i. 1. імкну́цца *да чаго́*; мець мо́цнае жада́ньне. 2. узно́сіцца
**aspirin** [ˈæsprɪn] n. асьпіры́н -у *m.*
**aspiring** [əˈspaɪərɪŋ] adj. 1. пра́гны да паша́ны (*сла́вы, ула́ды*), амбі́тны. 2. які́ ўздыма́ецца
**asquint** [əˈskwɪnt] adv. а) ко́са, ско́са: ***to look asquint*** глядзе́ць ско́са. б) Figur. глядзе́ць ко́са, падазро́на
**ass** [æs] n. 1. асёл, асла́ *m.* 2. ду́рlань -ня *m.*, дурны́ *або́* упа́рты чалаве́к. 3. Sl. за́дніца *f.*
• ***kick smb's ass*** Sl. зада́ць ды́хту
• ***sit on your ass*** Sl. сядзе́ць ку́чай
**assail** [əˈseɪəl] v.t. 1. напада́ць, атакава́ць: ***to assail a fortress*** напа́сьці на крэ́пасьць. 2. апано́ўвць, ахапля́ць: ***I was assailed with doubts*** Мяне́ апанава́лі сумне́вы. 3. рэ́зка крытыкава́ць; закіда́ць: ***I was assailed with questions*** Мяне́ закі́далі пыта́ньнямі
**assailable** [əˈseɪləbəl] adj. адкры́ты для напа́даў, слабы́, прысту́пны
**assailant** [əˈseɪlənt] n. напа́днік *m.*, хто напада́е або́ атаку́е
**assassin** [əˈsæsɪn] n. забо́йцlа -ы *m. & f.*
**assassinate** [əˈsæsɪneɪt] v.t. 1. забіва́ць. 2. Figur. зьнеслаўля́ць: ***assassinate someone's name*** зьнясла́віць не́чае імя́ паклёпамі
**assassination** [əˌsæsɪˈneɪʃən] n. забо́йства *n.*
**assault** [əˈsɔ:lt] – n. 1. напа́д -у *m.*; ата́ка *f.*, штурм -у *m.*; пры́ступ -у *m.*: ***to take by assault*** узя́ць шту́рмам. 2. Law сло́ўная абра́за, пагро́за фізы́чнага гва́лту: ***assault and battery*** напа́д са зьбіцьцём. 3. згвалтава́ньне *n.* 4. Milit. вы́садка дэса́нту з бо́ем
– adj. штурмавы́: ***assault troops*** штурмавы́я аддзе́лы
– v.t. 1. атакава́ць, штурмава́ць. 2. напада́ць, накіда́цца. 3. гва́лціць
**assay** [əˈseɪ] – v. 1. прабава́ць, выпрабо́ўваць; дасьле́даваць, спраўджа́ць, правяра́ць. 2. аналізава́ць сплаў ці руду́: ***This ore assays high in gold*** Гэ́тая руда́ бага́тая зо́латам
– n. 1. ана́ліз -у *m.*, про́ба *f.* 2. выпрабава́ньне *n.*; до́сьлед -у, тэст -у, экза́мэн -у *m.* 3. аналізава́нае рэ́чыва
**assemblage** [əˈsemblɪdʒ] n. 1. збор -у, зьезд-у *m.*, збо́рышча *n.*: ***an assemblage of all religions and races*** збор усі́х рэлі́гіяў і ра́саў. 2. награма́джаньне *n.*; кале́кцыя, гру́па *f.* 3. схо́дка, збо́рка *f.*, збор -у *m.* 4. збо́рка *f.*, манта́ж -у́ *m.*: ***the assemblage of parts of a machine*** збо́рка ча́стак машы́ны
**assemble** [əˈsembəl] – v.t. 1. зьбіра́ць. 2. склада́ць: ***to assemble a watch*** скла́сьці гадзі́ньнік. 3. скліка́ць
– v.i. зьбіра́цца, зьяжджа́цца; сыхо́дзіцца: ***Parliament assembles in October*** Парля́мэнт зьбіра́ецца ў кастры́чніку
**assembly** [əˈsembli] n., pl. **-blies** 1. асамбле́я *f.*, лю́дзі, што сабра́ліся; схо́д -у *m.*; пасе́джаньне *n.* 2. устано́ўчы сход; заканада́ўчы о́рган, сойм -у *m.* 3. збо́рка *f.* (*ча́стак мэхані́зму*). 4. набо́р, камплե́кт, агрэга́т -у *m.* 5. Milit. сыгна́л на збор. 6. схо́дка *f.*: ***unlawful assembly*** нелега́льная схо́дка
**assembly line** збо́рачны канвэ́ер
**assembly plant** збо́рачны цэх
**assent** [əˈsent] – v.i. выка́зваць зго́ду, згаджа́цца, пагаджа́цца: ***He assented to our proposal*** Ён згадзі́ўся на на́шую прапано́ву
– n. зго́да *f.*; пры́няцьцё прапано́вы
**assentation** [ˌæsenˈteɪʃən] n. 1. выказа́ньне зго́ды. 2. уго́дніцтва *n.*, лі́сьлівае падта́кваньне
**assert** [əˈsɜ:rt] v.t. 1. сьцьвярджа́ць, упэ́ўніваць, каза́ць. 2. насто́йваць (*на сваі́х право́х*); бараці́ць: ***Assert your independence*** Барані́ сваю́ самасто́йнасьць
• ***assert oneself*** насто́йваць на сваі́м
**assertion** [əˈsɜ:rʃən] n. 1. сьцьве́рджаньне, упэ́ўніваньне *n.*, упэ́ўненасьць *f.* 2. насто́йваньне на сваі́м пра́ве; напаляга́ньне *n.*; дамага́ньне *n.*

**assertive** [əˈsɜ:rtɪv] adj. 1. напóрысты, саманадзéйны, самаўпэ́ўнены. 2. Gram. апавядáльны: ***an assertive sentence*** апавядáльны сказ

**assess** [əˈses] v.t. 1. ацэ́ньваць. 2. вызначáць сýму *(падáтку, кáры)*; аблічáць, ацэ́ньваць: ***Damages have been assessed at $2000*** Шкóда былá ацэ́неная на дзьве ты́сячы далярáў. 3. вызначáць вáртасьць. 4. абмяркóўваць: ***to assess a situation*** абмеркавáць сытуáцыю

**assessment** [əˈsesmənt] n. 1. ацэ́нка *f.*, ацэ́ньваньне *n.*, атэстáцыя *f.* 2. вы́значаная сýма плáты

**assessor** [əˈsesər] n. асэ́сар -а *m.* а) падáткавы ўрадóвец. б) кансультáнт пры судзьдзí

**asset** [ˈæset] n. 1. каштóўнасьць, вáртасьць *f.* 2. кóзыр -а *m.*

**assets** [ˈæsets] n., pl. маёмасьць: ***personal assets*** рухóмая маёмасьць. 2. Bookkeep. акты́ў -ву *m.*, акты́вы: ***assets and liabilities*** акты́ў і пасíў

**asseverate** [əˈsevəreɪt] v.t. урачы́ста абвяшчáць, заяўляць

**assiduity** [ˌæsɪˈdu:əti] n., pl. **-ties** 1. старáннасьць, шчы́расьць у прáцы, пíльнасьць, рýплівасьць *f.* 2. стáлы рýплівы дагля́д, дагаджáньне *n.*

**assiduous** [əˈsɪdʒuəs] adj. 1. старáнны, шчы́ры ў прáцы. 2. рýплівы; увáжны

**assign** [əˈsaɪn] v.t. 1. назначáць, прызначáць: ***The judge assigned a day for the trial*** Судзьдзя́ прызнáчыў дзень судý. 2. давáць, задавáць: ***to assign homework*** задáць хáтнюю прáцу. 3. устанаўля́ць, выяўля́ць: ***No cause could be assigned to the fire*** Не маглí вы́явіць прычы́ны пажáру. 4. перадавáць *(маёмасьць, правы́)*

**assignation** [ˌæsɪgˈneɪʃən] n. 1. прызначэ́ньне *n.* 2. патаéмнае спаткáньне, дамóўленьне на спаткáньне

**assignee** [əˌsaɪˈni:] n. закóнны спадкаéмца, пераéмнік правóў. 2. упаўнавáжаны

**assignment** [əˈsaɪnmənt] n. 1. вы́значанае задáньне; мíсія *f.*, даручэ́ньне *n.*: ***assignment in arithmetic*** задáньне з арытмэ́тыкі. 2. прызначэ́ньне *n.*, намінáцыя *f.* 3. а) закóнная перадáча маёмасьці. б) дакумэ́нт, на падстáве якóга рóбіцца перадáча

**assimilate** [əˈsɪməleɪt] – v.t. 1. асыміля́вáць, упадабня́ць: ***to assimilate immigrants*** асымілявáць імігрáнтаў. 2. засвóйваць: ***You read so much that you do not assimilate it all*** Ты чытáеш так шмат, што ўсягó не засвóйваеш. 3. Biol. засвóйваць

– v.i. асымілявáцца, упадабня́цца

**assimilation** [əˌsɪməˈleɪʃən] n. 1. асымілявáньне *n.* , асыміля́цыя *f.* 2. засваéньне *n.*; паглынáньне *n.* 3. Gram. прыпадабнéньне *n.*, асыміля́цыя *f.* *(гýкаў)*. 4. Biol. засваéньне *n.*

**assimilative** [əˈsɪməleɪtɪv] adj. 1. асымілятыўны. 2. засвая́льны; асыміляцы́йны

**assist** [əˈsɪst] – v.t. дапамагáць, падтрымóўваць, супрацóўнічаць

– v.i. (in) брáць удзéл *у чым*, (at) прысýтнічаць: ***He assisted at a meeting*** Ён брáў удзéл у збóрцы

– n. дапамóга, падтры́мка *f.*

**assistance** [əˈsɪstəns] n. дапамóга, падтры́мка *f.*: ***Can I be of assistance?*** Ці магý я дапамагчы́?

**assistant** [əˈsɪstənt] – n. памóчнік -а *m.*, памóчніца *f.*; памагáт|ы -ага *m.*, памагáтая *f.*; асыстэ́нт -а *m.*, асыстэ́нтка *f.*

– adj. дапамóжны; які́ дапамагáе

**associate** [əˈsoʊʃieɪt] – v.t. 1. асацыявáць, спалучáць, злучáць *(у дýмках)*. 2. далучáцца да сýпалкі ці фíрмы: ***to be associated with*** быць зьвя́заным з *кім-чым*: ***Her name is associated with the women's rights movement*** Яé імя́ зьвя́занае з жанóчым рýхам. 3. злучáць рáзам; задзінóчваць, аб'яднóўваць, гуртавáць

– v.i. 1. сябравáць, вéсьці знаёмства з *кім*. 2. гуртавáцца, задзінóчвацца

– adj. [əˈsoʊʃiət] аб'яднáны; зьвязáны

– n. 1. ся́бр|а -ы *m.*, сябро́ўка *f.*, кале́г|а -і *m.*, супрацо́ўнік -а *m.* 2. супо́льнік -а *m.*, супо́льніца *f.*; партнэ́р -а *m.*
• ***an associate member*** ся́бра арганіза́цыі зь няпо́ўнымі права́мі
• ***associate editor*** памо́чнік рэда́ктара

**association** [əˌsousiˈeɪʃən] n. 1. су́вязь *f.*; дачыне́ньні *pl. only*; бліжэ́йшае знаёмства. 2. аб'ядна́ньне, згуртава́ньне *n.*; хаўру́с -у *m.*, тава́рыства *n.*, асацыя́цыя *f.*: ***the young people's association*** згуртава́ньне мо́ладзі. 3. сябро́ўства, партнэ́рства *n.*, су́палка, су́вязь, асацыя́цыя *f.*: ***association of ideas*** су́вязь ду́мак

**associative** [əˈsouʃieɪtɪv] adj. асацыяты́ўны; схі́льны да гуртава́ньня

**assonance** [ˈæsənəns] n. асана́нс -у *m.*, недакла́дная ры́фма

**assonant** [ˈæsənənt] – adj. асана́нсны, сугу́чны
– n. асана́нс -у *m.*, сугу́чча *n.*

**assort** [əˈsɔ:rt] – v.t. сартава́ць; разьмярко́ўваць; разьбіра́ць; групава́ць, клясыфікава́ць: ***to assort books alphabetically*** групава́ць кні́гі ў альфабэ́тным пара́дку
– v.i. падыхо́дзіць, пасава́ць: ***to assort well*** до́бра пасава́ць

**assorted** [əˈsɔ:rtəd] adj. 1. пасартава́ны; вы́браны; разная́кі, ме́шаны, мяша́ны: ***assorted candies*** ме́шаныя цуке́ркі. 2. падабра́ны; клясыфікава́ны

**assortment** [əˈsɔ:rtmənt] n. 1. сартава́ньне *n.*, клясыфіка́цыя *f.* 2. вы́бар -у *m.*; падбо́р -у *m.*, асартымэ́нт -у *m.*

**assuage** [əˈsweɪdʒ] v.t. 1. зьмякча́ць, палягча́ць (*го́ра, боль*). 2. наталя́ць, заспако́йваць, задаво́льваць, суціша́ць: ***to assuage hunger*** суці́шыць го́лад

**assuagement** [əˈsweɪdʒmənt] n. 1. зьмякчэ́ньне, палягчэ́ньне *n.* 2. натале́ньне, заспакае́ньне, суцішэ́ньне *n.*

**assume** [əˈsu:m] – v.t. 1. прыма́ць, браць: ***He assumed a new name*** Ён узя́ў сабе́ і́ншае імя́; ***to assume control*** браць кіраўні́цтва; ***to assume an air of innocence*** прыня́ць бязьві́нны вы́гляд. 2. прысво́йваць; узурпава́ць. 3. удава́ць; прыкіда́цца: ***to assume ignorance*** удава́ць няве́даньне
– v.i. меркава́ць; дапушча́ць: ***I assume that...*** я дапушча́ю, што...

**assumed** [əˈsu:md] adj. 1. удава́ны; прыня́ты, незапра́ўдны, фікцы́йны, вы́думаны: ***an assumed name*** прыня́тае ймя́. 2. дапушча́льны; меркава́ны. 3. узурпава́ны, бяспра́ўна захо́плены

**assuming** [əˈsu:mɪŋ] adj. 1. зана́дта ўпэ́ўнены, наха́бны

**assumption** [əˈsʌmpʃən] n. 1. прысвае́ньне, захапле́ньне *n.* (*ула́ды*); прыня́цьце *n.* (*абавя́зку*). 2. дапушчэ́ньне, меркава́ньне *n.*: ***You are making a dangerous assumption*** Вы ро́біце небясьпе́чнае дапушчэ́ньне. 3. наха́бства *n.*

**Assumption** Усьпе́ньне Бо́жае Ма́ці

**assurance** [əˈʃʊrəns] n. 1. запэ́ўненьне, упэ́ўненьне *n.*: ***to give one's assurance*** запэ́ўніць. 2. страхо́ўка *f.*, страхава́ньне *n.* 3. пэ́ўнасьць, пераканá-насьць *f.*; цьве́рдая ўпэ́ўненасьць: ***We have the assurance of final victory*** Нас запэ́ўнілі ў канчатко́вай перамо́зе. 4. самапэ́ўнасьць, самаўпэ́ўненасьць *f.*

**assure** [əˈʃʊr] v.t. 1. упэ́ўніваць, перако́нваць. 2. запэ́ўніваць: ***I can assure you*** Я магу́ вас запэ́ўніць. 3. забясьпе́чваць, гарантава́ць. 4. страхава́ць: ***to assure one's life*** застрахава́ць жыцьцё. 5. падбадзёрваць, дадава́ць сьме́ласьці: ***to assure a frightened child*** падбадзёрыць спало́ханае дзіця́

**assured** [əˈʃʊrd] – adj. 1. пэ́ўны, запэ́ўнены: ***Success is assured*** Уда́ча запэ́ўненая. 2. пэ́ўны сябе́; адва́жны. 3. застрахава́ны
– n. застрахава́ны -ага *m.*

**assuredly** [əˈʃʊrɪdli] adv. 1. напэ́ўна; вядо́ма; безумо́ўна. 2. пэ́ўна, адва́жна, я́сна

**assuredness** [əˈʃʊrɪdnəs] n. 1. пэ́ўнасьць *f.* 2. самапэ́ўнасьць *f.*

**astatic** [əˈstætɪk] adj. няста́лы; хі́сткі

**aster** [ˈæstər] n. Bot. а́стра *f.*

**asterisk** [ˈæstərɪsk] – n. зо́рачка *f.*, знак зно́скі (*у дру́ку ці пісьмé*)
– v.t. пазнача́ць зо́рачкай

**asteroid** [ˈæstərɔɪd] – n. 1. Astron. астэро́йд -а *m.* 2. Zool. марска́я зо́рка

**asteroidal** [ˌæstəˈrɔɪdəl] adj. астэро́йдавы

**asthenia** [æsˈθiːniə] n. астэ́нія, кво́ласьць *f.*, бясьсі́льле *n.*

**asthenic** [æsˈθenɪk] adj. астэні́чны

**asthma** [ˈæzmə] n. а́стма, ды́хавіца *f.*; задышка *f.*

**asthmatic** [æzˈmætɪk], – adj. астматы́чны, ды́хавічны
– n. хво́ры на а́стму, астма́тык -а *m.*, астматы́чка *f.*

**astigmatic** [ˌæstɪgˈmætɪk] adj. 1. астыгматы́чны. 2. Figur. вы́крыўлены (*пагля́д*)

**astigmatism** [əˈstɪgməˌtɪzəm] n. астыгматы́зм -у *m.*

**astir** [əˈstɜːr] adv., adj. у ру́ху; узбу́джаны

**astonish** [əˈstɑːnɪʃ] v.t. зьдзіўля́ць, дзіві́ць

**astonishing** [əˈstɑːnɪʃɪŋ] adj. неспадзява́ны, нечака́ны; які́ дзі́віць

**astonished** [əˈstɑːnɪʃt] adj. зьдзі́ўлены

**astonishment** [əˈstɑːnɪʃmənt] n. зьдзіўле́ньне *n.*: ***to my astonishment*** на маё зьдзіўле́ньне

**astound** [əˈstaʊnd] v.t. 1. мо́цна зьдзіўля́ць, дзіві́ць. 2. ураж́аць

**astraddle** [əˈstrædəl] adv., adj., *гл.* **astride**

**astrakhan** [ˌæstrəˈkæn] n. 1. во́ўна з астраха́нскіх аве́чак. 2. кара́куль -ю *m.*

**astral** [ˈæstrəl] adj. зо́ркавы; зо́рны, астра́льны

**astray** [əˈstreɪ] – adv. зьбі́цца з даро́гі: ***to go astray*** заблудзі́ць; зьбі́цца з даро́гі. ***to lead astray*** зьбіва́ць з даро́гі
– adj. які́ зьбі́ўся з даро́гі, які́ заблудзі́ў

**astrict** [əˈstrɪkt] v.t. 1. зьвя́зваць, стры́мваць. 2. мара́льна абавя́зваць, зьвя́зваць. 3. абмяжо́ўваць

**astride** [əˈstraɪd] – adj. з расста́ўленымі нагамі
– adv., prep. 1. ве́рхам; расста́віўшы но́гі: ***He sits astride on his horse*** Ён сядзі́ць ве́рхам на кані́. 2. паабапал, уздо́ўж: ***astride of the road*** паабапал даро́гі

**astringent** [əˈstrɪndʒənt] – adj. 1. вя́жучы. 2. суро́вы; стро́гі (*стыль*). 3. е́дкі
– n. рэ́чыва, якое звужа́е тка́нкі

**astrologer** [əˈstrɑːlədʒər] n. астро́ляг -а *m. & f.*, зьвязда́р зьвездара́ *m. & f.*

**astrological** [ˌæstrəˈlɑːdʒɪkəl] adj. астралягі́чны

**astrology** [əˈstrɑːlədʒi] n. астралёгія *f.*

**astronaut** [ˈæstrənɔːt] n. астрана́ўт -а *m.*, астрана́ўтка *f.*; касмана́ўт -а *m.*

**astronautics** [ˌæstrəˈnɔːtɪks] n. астрана́ўтыка *f.*

**astronomer** [əˈstrɑːnəmər] n. астрано́м -а *m. & f.*

**astronomic(al)** [ˌæstrəˈnɑːmɪkəl] adj. 1. астранамі́чны. 2. ве́льмі вялі́кі, велічэ́зны: ***astronomical sums of money*** велічэ́зныя су́мы гро́шай

**astronomy** [əˈstrɑːnəmi] n. астрано́мія *f.*

**astrophysics** [ˌæstrəˈfɪzɪks] n. астрафі́зыка *f.*

**astute** [əˈstuːt] adj. 1. прані́клівы, празо́рлівы; спры́тны: ***an astute diplomat*** празо́рлівы дыплямат. 2. хі́тры, ло́ўкі; ке́млівы

**asunder** [əˈsʌndər] adv. 1. па-ро́знаму; асо́бна; у ро́зныя бакі́: ***to rush asunder*** кі́нуцца ў ро́зныя бакі́. 2. надво́е; на кава́лкі, на ча́сткі
• ***split asunder*** расшчапі́ць на ча́сткі
• ***tear asunder*** разарва́ць на кава́лкі

**asylum** [əˈsaɪləm] n. 1. прыту́л|ак -ку *m.* 2. прыста́нішча *n.*, дом для псыхі́чна хво́рых. 3. прыту́лак *m.*, схо́вішча *n.*, азы́л|ь -ю *m.*: ***political asylum*** палітычны прыту́лак

**asymmetrical** [ˌeɪsɪˈmetrɪkəl] adj. асымэтры́чны, несымэтры́чны

**asymmetry** [eɪˈsɪmətri] n. асымэтры́я, несымэтры́чнасьць *f.*

**asymptote** [ˈæsɪmtoʊt] n., Math. асымпто́та *f.*

**at** [æt; *unstressed* ət] prep. 1. ля, у; на; блі́зка *чаго́*: ***at the door*** ля дзьвярэ́й, пры дзьвяра́х; ***at home*** до́ма: ***at school*** у шко́ле; ***at a meeting*** на пасе́джаньні. 2. (*у кіру́нку*) у, на, за: ***to aim at the mark*** цэ́ліць у мэ́ту; ***Look at me*** Глядзі́ на мяне́; ***sit down at the table*** се́сьці за стол. 3. пад; у ста́не; на: ***at right angles*** пад про́стым куто́м; ***at war*** у ста́не вайны́; ***at anchor*** на я́кары; ***at peace*** у супакоі; ***at your discretion*** пад тваю разва́гу, на тваё вырашэ́ньне; ***at first sight*** на пе́ршы пагля́д; ***delighted at*** захо́плены *чым.* 4. (*пра час*) а, у, на, пад: ***at midnight*** апо́ўначы; пад по́ўнач; ***at five o'clock*** а пя́тай гадзі́не; ***at the end of the lesson*** у канцы́ ле́кцыі; ***at dawn*** на сьвіта́нку; ***at night*** уначы́, уно́чы; ***at present*** цяпе́р. 5. праз: ***Enter at the back door*** Захо́дзь праз за́днія дзьве́ры. 6. да, за: ***at work*** за пра́цай; ***good at languages*** здо́льны да мо́ваў. 7. з прычы́ны, па: ***to be happy at something*** це́шыцца з прычы́ны не́чага

**ataractic** [ˌætəˈræktɪk] – adj. супако́йвальны: ***ataractic medicines*** супако́йвальныя ле́кі
– n. супако́йвальны лек

**ataraxy** [ˌætəˈræksi] n. Med. умысло́вы й духовы супако́й; статі́чная абыякавасьць

**atavism** [ˈætəˌvɪzəm] n. атаві́зм -у *m.*, падабе́нства да далёкага про́дка

**atavistic** [ˌætəˈvɪstɪk] adj. атавісты́чны

**ate** [eɪt] v., *p.t. of* **eat**

**atelier** [ˌætəlˈjeɪ] n. майстэ́рня, сту́дыя *f.*, атэлье́, *indecl., n.*

**atheism** [ˈeɪθiˌɪzəm] n. бязбо́жніцтва *n.*, атэі́зм -у *m.*

**atheist** [ˈeɪθiɪst] n. 1. бязбо́жнік -а *m.*, бязбо́жніца *f.*; атэі́ст -а *m.*, атэі́стка *f.*

**atheistic** [ˌeɪθiˈɪstɪk] adj. бязбо́жніцкі; атэісты́чны

**Athena** [əˈθi:nə] n., Myth. Атэ́на *f.*, багі́ня му́драсьці

**athenaeum** or **atheneum** [ˌæθɪˈni:əm] n. 1. навуко́вы *або́* літарату́рны клюб. 2. чыта́льня, бібліятэ́ка *f.*

**Athenian** [əˈθi:niən] – adj. атэ́нскі
– n. жыха́р(ка) Атэ́наў

**athlete** [ˈæθli:t] n. атле́т -а *m.*; спарто́лвец -ўца *m.*, спарто́ўка *f.*

**athlete's foot,** Med грыбко́вая хваро́ба на нага́х

**athletic** [æθˈletɪk] adj. 1. атлеты́чны; спарто́вы: ***an athletic field*** спарто́вы пляц. 2. руха́вы, энэргі́чны

**athleticism** [æθˈletɪˌsɪzəm] n. захапле́ньне спо́ртам, любо́ў да спо́рту; здо́льнасьць да спо́рту

**athletics** [æθˈletɪks] n. 1. (usually pl.) спарто́вые гу́льні. 2. (usually sing.) атле́тыка *f.*; фізкульту́ра *f.*, спорт -у *m.*: ***track and field athletics*** лёгкая атле́тыка

**at-home** [ətˈhoʊm] – n., *такс.* **at home** неафіцы́йнае прыняцьцё
– adj. ха́тні; неафіцы́йны: ***at-home clothes*** ха́тняя во́пратка
• ***feel at home*** чу́цца ўту́льна, па-ха́тняму

**athwart** [əˈθwɔ:rt] – adv. на́крыж; упо́перак, наўско́с
– prep. 1. упо́перак; праз: ***to throw a bridge athwart a river*** пераки́нуць мост праз раку́. 2. су́праць, супро́ць; насу́перак, насупо́р: ***athwart his plans*** насу́перак яго́ным пля́нам

**atilt** [əˈtɪlt] adj., adv. 1. перахі́лены; наба́кір (*пра ша́пку, капялю́ш*). 2. Milit. наперавес

**atlantes** [ətˈlænti:z] n. pl., sing. **atlas** Arch. атля́нты, падпо́рныя калёны

**Atlantic** [ətˈlæntɪk] – adj. атлянты́чны, трансатлянты́чны
– n. Атля́нтык -а *m.*, Атлянты́чны акія́н

**atlas** [ˈætləs] n. атля́с -у *m.*

**atmosphere** [ˈætməsfɪr] n. 1. атмасфэ́ра *f.* 2. Figur. навако́льнае асяро́дзьдзе, абста́віны *pl.*, атмасфэ́ра *f.* 3. Phys. атмасфэ́ра *f.* (*адзі́нка атмасфэ́рнага ці́ску*)

**atmospheric** [ˌætməsˈferɪk] adj. атмасфэ́рны: ***atmospherical pressure*** атмасфэ́рны ці́ск

**atmospherics** [ˌætməsˈferɪks] n. атмасфэ́рныя перашко́ды (*ра́дыё*)

**atoll** [ˈætɔːl] n. ато́л -а *m.*

**atom** [ˈætəm] n. 1. а́там -а *m.* 2. мале́нькая ча́стачка; кры́ха *f.*: ***there is not an atom of evidence*** няма́ ані́ кры́хі до́ваду

**atom bomb** or **atomic bomb** а́тамная бо́мба

**atomic** [əˈtɑːmɪk] adj. 1. а́тамны: ***atomic research*** а́тамнае дасьле́даваньне. 2. прыво́джаны ў рух а́тамнай энэ́ргіяй

**atomic age** а́тамны век, суча́сная эпо́ха

**atomic energy** а́тамная энэ́ргія

**atomic fallout = nuclear fallout** ра́дыяакты́ўныя апа́дкі

**atomic heat** а́тамнае цяпло́

**atomic number** а́тамны пара́дкавы лік

**atomic warfare** а́тамная вайна́

**atomic weight** а́тамная вага́

**atomization** [ˌætəmɪˈzeɪʃən] n. 1. распы́льваньне *n.* 2. разьбіва́ньне на а́тамы. 3. раздрабне́ньне на ча́стачкі

**atomize** [ˈætəmaɪz] v.t. 1. распыля́ць. 2. раздрабня́ць, (*на ча́стачкі*). 3. разьбіва́ць на а́тамы. 4. зьнішча́ць а́тамным вы́бухам

**atomizer** [ˈætəmaɪzər] n. распыля́льнік -а *m.* (*для ва́дкасьці*)

**atone** [əˈtoʊn] v.i. 1. загла́джваць: ***to atone for one's unkindness*** загла́дзіць сваю́ недабрату́. 2. пакрыва́ць,варо́чаць, кампэнсава́ць (*стра́ты*). 3. лаго́дзіць, злаго́джваць

**atonement** [əˈtoʊnmənt] n. 1. загла́джаньне, выкупле́ньне *n.* (*віны́, кры́ўды*). 2. пакрыцьцё *n.*, зваро́т -у *m.*, кампэнса́та *f.* (*за стра́ты*)

**atonic** [eɪˈtɑːnɪk] – adj. 1. Gram. ненаці́сьнены. 2. Phon. глухі́

– n. 1. Gram. ненаціскны́ склад. 2. Phon. глухі́ зы́чны, гук

**atop** [əˈtɑːp] – adv. наве́рсе; на вярша́ліне, на верхаві́не

– prep. над; паўзьве́рх

**atremble** [əˈtrembəl] – adj. дрыго́ткі

– adv. дрыжучы́

**atrocious** [əˈtroʊʃəs] adj. 1. лю́ты; зьве́рскі; бязьлі́тасны; дзікі́. 2. Informal жахлі́вы; страшэ́нны; гі́дкі, ве́льмі пры́кры: ***atrocious weather*** жахлі́вае надво́р'е

**atrocity** [əˈtrɑːsəti] n., pl. **-ties** 1. лю́тасьць, зьве́рскасьць *f.* 2. лю́ты ўчы́нак; зьве́рства *n.* 3. Informal страхо́цьце *n.*, жахлі́васьць *f.*, про́мах -у *m.*

**atrophied** [ˈætrəfɪd] adj. 1. атрафава́ны. 2. адме́рлы, заме́рлы; заняпа́лы; вы́сахлы

**atrophy** [ˈætrəfi] – n. 1. адміра́ньне, завяда́ньне *n.*, атро́фія *f.*: ***muscular atrophy*** атро́фія му́скулаў. 2. спыне́ньне ро́сту

– v.i. адміра́ць

– v.t. атупля́ць (*ро́зум*), даво́дзіць да атро́фіі

**attach** [əˈtætʃ] – v.t. 1. далуча́ць, прымацо́ўваць, прычапля́ць, прывя́зваць: ***to attach a rope to smth*** прывяза́ць вяро́ўку *да чаго.* 2. прыклада́ць (*ма́рку*). 3. надава́ць, прыпі́сваць: ***to attach importance to*** надава́ць зна́чаньне *чаму́.* 4. наклада́ць а́рышт (*на маёмасьць*)

– v.i. 1. прывя́звацца. 2. далуча́цца: ***He has attached himself to us*** Ён прывяза́ўся да нас

**attaché** [ˌætəˈʃeɪ] n. аташэ́, *indecl., m.*: ***military attaché*** вае́нны аташэ́

**attaché case** дыпляма́т (*партфэ́ль*)

**attachment** [əˈtætʃmənt] n. 1. прывя́званьне *n.*; прымацава́ньне *n.* 2. прывя́занасьць, адда́насьць *f.* 3. дада́т|ак -ку *m.*; прыстасава́ньне *n.*, прыла́да *f.* 4. наклада́ньне а́рышту (*на маёмасьць*). 5. прыкамандава́ньне *n.* 6. залу́чнік -а *m.* (*у электро́ннай по́шце*)

**attack** [əˈtæk] – v.t. 1. напада́ць, атакава́ць: ***to attack an enemy*** напа́сьці на во́рага. 2. энэргі́чна бра́цца за *што*: ***to attack a task*** шчы́ра ўзя́цца за спра́ву; нава́львацца (*на е́жу*), накіда́цца. 3. апано́ўваць, напада́ць: ***Locusts attacked the crops*** На пасе́вы

напáла саранчá. 4. нападáць, крытыкавáць
– v.i. нападáць: ***The enemy attacked at dawn*** Вóраг напáў на сьвітáньні
– n. 1. атáка *f.*; наступлéньне *n.*, напáд -у *m.* 2. пры́ступ -у *m.*, прыпáд|ак -ку *m.* (*хварóбы, злóсьці*). 3. напáсьць *f.*; напáдкі *pl. only*: ***to be under violent attack*** быць прадмéтам гвалтóўн|ай напáсьці, напáдак

**attain** [əˈteɪn] v.t. 1. дасягáць: ***to attain the age of 90*** дажы́ць да дзевянóста гадóў. 2. здабывáць, (д)асягáць; дабівáцца: ***to attain a goal*** (д)асягну́ць мэ́ты
• ***attain to*** дайсьці́ да нéчага: ***to attain to a position of great influence*** дайсьці́ да вéльмі ўплывóвага станóвішча

**attainable** [əˈteɪnəbəl] adj. дасягáльны

**attainder** [əˈteɪndər] n., Law стрáта правóў і маёмасьці

**attainment** [əˈteɪnmənt], n. 1. дасягнéньне *n.* 2. здóльнасьць *f.*, умéльства *n.*: ***a man of varied attainments*** чалавéк з рóзнымі здóльнасьцямі

**attaint** [əˈteɪnt] – v.t. 1. пазбаўля́ць правóў. 2. Figur. зьнеслаўля́ць. 3. гáньбіць
– n. гáньба *f.*

**attempt** [əˈtempt] – v.t. 1. прабавáць; намагáцца, старáцца; сíліцца: ***to attempt to get better marks*** старáцца атрымáць лéпшыя адзнáкі. 2. рабíць замáх: ***to make an attempt on somebody's life*** рабíць замáх на нéчае жыцьцё
– n. 1. спрóба *f.*; намагáньне *n.* 2. замáх -у *m.*
• ***make an attempt*** рабíць намагáньне, спрóбу

**attend** [əˈtend] – v.t. 1. быць прысу́тным; навéдваць: ***to attend school*** хадзíць у шкóлу, навéдваць шкóлу. 2. суправаджáць, асыставáць: ***to attend the queen*** асыставáць каралéве. 3. даглядáць (*хвóрага*), прыслугóўваць *камý*. 4. даглядáць, дапільнóўваць: ***Your orders will be attended to*** Вáшыя загáды бу́дуць вы́кананыя
– v.i. 1. прыкладáцца да *чагó*: ***to attend to one's work*** быць старáнным у прáцы. 2. быць прысу́тным (*на лéкцыі*). 3. быць увáжным: ***Attend to my story*** Слу́хайце ўвáжліва, што я вам раскажу́: ***to attend to someone's need*** быць увáжным да нéчыіх патрэ́баў. 4. ру́піцца; дбáць; пільнавáць: ***to attend to the education of one's children*** дбаць пра адукáцыю сваíх дзяцéй. 5. прыслугóўваць, абслугóўваць

**attendance** [əˈtendəns] n. 1. навéдваньне *n.*: ***Our class has good attendance*** Нáшая кля́са мáе дóбрае навéдваньне. 2. прысу́тныя *pl.*, пу́бліка *f.*, слухачы́ *pl.*: ***The attendance at the meeting was over 200*** На схóдзе былó больш за 200 прысу́тных. 3. апéка *f.*; абслу́га *f.*; паслу́га *f.*; суправаджэ́ньне *n.*
• ***dance attendance on*** хадзíць за *кім*, быць празьмéрна вéтлівым, паслу́жлівым; танцавáць вакóл *кагó*
• ***in attendance*** на слу́жбе: ***the physician in attendance*** лéкар на дыжу́ры
• ***take attendance*** спраўджáць прысу́тнасьць

**attendant** [əˈtendənt] – adj. 1. які́ абслугóўвае, дапамагáе *абó* асыстýе: ***an attendant nurse*** сястрá, якáя асыстýе. 2. спадарóжны; суправаджáльны: ***attendant circumstances*** суправаджáльныя абстáвіны. 3. прысу́тны
– n. 1. прысу́тн|ы -ага *m.* 2. слуг|á -í *m.* & *f.*; пасьлядóўнік -а *m.*, пасьлядóўніца *f.*; суправаджáльнік -а *m.*

**attention** [əˈtentʃən] n. 1. увáга *f.*: ***to pay attention*** уважáць, слу́хацца: ***to give attention to the teacher*** слу́хаць увáжна настáўніка; ***to call attention to something*** зьвярну́ць увáгу на *што*, прыцягну́ць увáгу да *чагó*. 2. турбóта, ру́плівасьць *f.*; увáга *f.*, дагля́д -у *m.*: ***to show much attention*** выяўля́ць шмат увáгі, ру́плівасьці; ***Your letter will receive early***

***attention*** Ваш ліст бу́дзе ху́тка разгле́джаны

• ***Attention!*** interj. Зважа́й! (*кама́нда*): • ***stand at attention*** стая́ць на зважа́й

**attentive** [əˈtentɪv] adj. 1. ува́жны; нázіра́льны. 2. ве́тлівы, ве́тлы. 3. ува́жлівы

**attentively** [əˈtentɪvli] adv. 1. ува́жна, уні́кліва. 2. ве́тліва

**attenuate** [əˈtenjueɪt] – v.t. 1. аслабля́ць (*сі́лу*), зьмяншáць (*ко́лькасьць, ва́ртасьць*). 2. разво́дзіць; разрэ́джваць, разбаўля́ць. 3. рабі́ць то́нкім: ***He was attenuated by hunger*** Ад го́ладу ён схудне́ў

– v.i. худне́ць

**attenuation** [əˌtenjuˈeɪʃən] n. 1. пахуда́ньне, схудне́ньне, зьнясі́леньне *n.* 2. разрэ́джаньне, разво́джаньне *n.*

**attest** [əˈtest] v. 1. сьве́дчыць; быць до́вадам. 2. пасьве́дчваць, засьве́дчваць; пацьвярджа́ць, сцьвярджа́ць: ***to attest a signature*** засьве́дчыць по́дпіс. 3. прыве́сьці да прыся́гі

**attestation** [ˌæteˈsteɪʃən] n. 1. сьве́дчаньне *n.* 2. до́вад -у *m.*; пацьве́рджаньне, пасьве́дчаньне *n.* 3. засьве́дчаньне *n.* (*прыся́гай або́ по́дпісам*)

**attestor** [əˈtestər] n., Law сьве́дкa -і *m. & f.*

**Attic** [ˈætɪk] – adj. 1. аты́цкі. 2. клясы́чны (*стыль*)

– n. жыха́р Аты́кі; аты́цкі дыяле́кт

**attic** [ˈætɪk] n. 1. гара́ *f.*; гары́шча, падстрэ́шша *n.*; пако́й на падстрэ́шшы, манса́рда *f.* 2. Archit. а́тыка *f.*

**attire** [əˈtaɪər] – n. во́пратка *f.*; убо́р -у *m.*, убра́ньне *n.*: ***Earth in her rich attire*** Зямля́ ў сваім бага́тым убра́ньні

– v.t. апрана́ць (-ца), убіра́ць (-ца); стро́іць, выстро́йваць: ***attired in velvet*** апра́нуты ў аксамі́т

**attitude** [ˈætətu:d] n. 1. ста́ўленьне *n.*, падыхо́д -у *m.*: ***attitude toward school*** ста́ўленьне да шко́лы. 2. паста́ва, по́за *f.*: ***the attitude of a boxer ready to fight*** паста́ва баксёра, гато́вага да бо́ю

• ***strike an attitude*** прыма́ць тэатра́льную по́зу

**attorney** [əˈtɜ:rni] n. 1. паве́раны -ага *m.* 2. пра́ўнік -а *m.*: ***attorney at law*** пра́ўнік, адвака́т -а *m.*

**Attorney General**, pl. **attorneys general** or **attorney generals**, генэра́льны пракуро́р, міні́стар юсты́цыі (*у ЗША*)

**attract** [əˈtrækt] – v.t. 1. прыця́гваць, прыцяга́ць: ***A magnet attracts iron*** Магні́т прыця́гвае жале́за. 2. прыця́гваць да сябе́, на́дзіць, палані́ць; захапля́ць: ***to attract away (from)*** адця́гваць, адцягну́ць ад *каго́-чаго́*

– v.i. прыцяга́ць, быць прыва́бным

**attraction** [əˈtrækʃən] n. 1. прыця́гваньне, прыцягне́ньне *n.* 2. ця́га, пана́днасьць, прыва́бнасьць *f.*: ***Wealth had no attraction for him*** Бага́цьце ня ме́ла нія́кай прыва́бнасьці для яго́. 3. эфэ́ктны ну́мар прагра́мы; атракцыя *f.*

**attractive** [əˈtræktɪv] adj. пана́дны, прыва́бны, прые́мны (*з вы́гляду*)

**attribute** [əˈtrɪbjət] – v.t. надава́ць, прыпі́сваць

– n. [ˈætrɪbju:t] 1. азна́ка, прыкме́та, уласьці́васьць *f.*, характэ́рная ры́са; атрыбу́т -у *m.*; сы́мбаль -ю *m.* 2. Gram. азначэ́ньне *n.*

**attribution** [ˌætrɪˈbju:ʃən] n. 1. прыпіса́ньне, прыдава́ньне, надава́ньне *n.* 2. прыпі́сваная рэч *або́* я́касьць, прыкме́та *f.*, атрыбу́т -у *m.*

**attributive** [əˈtrɪbjətɪv] – adj. 1. Gram. азнача́льны. 2. які́ азнача́е я́касьць *або́* прыкме́ту

– n. азнача́льнае сло́ва, азначэ́ньне

**attrited** [əˈtrɪtɪd] adj. сьцёрты, зно́шаны

**attrition** [əˈtrɪʃən] n. 1. сьціра́ньне, зно́шваньне. 2. Figur. зьнямо́жаньне, зьнясі́леньне *n.*: ***a war of attrition*** вайна́, разьлі́чаная на зьнясі́леньне супраці́ўніка. 3. Figur. вычарпа́ньне *n.*: ***reducing staff by attrition*** зьмяншэ́ньне ка́драў праз непапаўне́ньне

**attune** [əˈtu:n] – v.t. настро́йваць, ла́дзіць, прыво́дзіць у сугу́чнасьць

– v.i. прыстасо́ўвацца: ***Ears attune to the noise of a big city*** Ву́шы прыстасо́ўваюцца да шу́му вялі́кага го́раду

**auberge** [ˌoʊˈbeərʒ] n., Fr. заéзны двор, карчмá *f.*

**auburn** [ˈɔːbərn] adj. каштáнавы; рудьí, чырвóна-карьíчневы

**auction** [ˈɔːkʃən] – n. аўкцыён -у *m.*
– v.t. прадавáць з таргóў

**auction bridge** брыдж з таргавáньнем

**auctioneer** [ˌɔːkʃəˈnɪr] – n. аўкцыянíст -а *m.*
– v.t. прадавáць з аўкцыёну

**audacious** [ɔːˈdeɪʃəs] adj. 1. адвáжны: ***an audacious pilot*** адвáжны пілёт. 2. нахáбны; бессарóмны

**audacity** [ɔːˈdæsəti] n., pl. **-ties** 1. вялíкая адвáга, сьмéласьць *f.* 2. нахáбства *n.*

**audibility** [ˌɔːdəˈbɪləti] n. 1. чýтнасьць *f.* 2. гýчнасьць *f.*

**audible** [ˈɔːdəbəl] adj. чýтны

**audience** [ˈɔːdiəns] n. 1. аўдытóрыя *f.*, слухачьí, гледачьí; пýбліка *f.* 2. слýханьне (*спрáвы*). 3. аўдыéнцыя *f.*

**audio frequency** гукавáя частатá

**audiovisual** [ˌɔːdioʊˈvɪʒuəl] adj. зрóкаваслыхавьí, аўдыявізуáльны: ***audio-visual aids*** аўдыявізуáльныя дапамóжнікі

**audit** [ˈɔːdət] – v.t. 1. правярáць, рэвізавáць. 2. быць вóльным слухачóм (*у калéджы, ва ўнівэрсытэ́це*)
– n. аўдьíт -у *m.*, рэвíзія *f.*

**audition** [ɔːˈdɪʃən] – n. 1. праслухóўваньне *n.* (*сьпевакá, музыкáнта, актóра*). 2. слýханьне *n.*
– v.t. 1. праслухóўваць. 2. спрабавáць (*артьíста*)
– v.i. праслухóўвацца (*пра сьпевакá, актóра для рóлі*)

**auditor** [ˈɔːdətər] n. 1. аўдьíтар -а, рэвізóр -а *m.*, фінáнсавы кантралёр. 2. слухáч -á *m.* 3. вóльны слухáч на ўнівэрсытэ́це

**auditorium** [ˌɔːdɪˈtɔːriəm] n. вялíкая зáля, аўдытóрыя *f.*

**auditory** [ˈɔːdətɔːri] – adj. слыхавьí: ***the auditory nerve*** слыхавьí нэрв
– n. 1. слухачьí *pl.* 2. зáля, аўдытóрыя *f.*

**auger** [ˈɔːgər] – n. 1. сьвярдзёл|ак -ка *m.*, сьвíдл|ар -ра *m.*
– v.t. сьвідравáць

**augment** [ɔːgˈment] – v.t. пабóльшваць, павялíчваць, узмацнáць
– v.i. пабóльшвацца, павялíчвацца; расьцí (*памéрам*), узмацнáцца

**augmentation** [ˌɔːgmenˈteɪʃən] n. 1. пабóльшваньне *n.* 2. пабóльшаньне *n.*, прырóст -у *m.*, дадáт|ак -ку *m.*

**augur** [ˈɔːgər] – n. 1. аўгýр (*у старьíм Рьíме*). 2. прарóк -а *m.*; прадказáльнік -а *m.*
– v.t. прадкáзваць, прадвяшчáць
– v.i. 1. прадкáзваць, прадбáчваць, прарóчыць, прадвяшчáць: ***It augurs well*** Гэ́та дóбрая прыкмéта

**augury** [ˈɔːgjəri] n., pl. **-ries** 1. прадказáньне; прадвéсьце *n.*; прыкмéта *f.*, знак -у *m.* 2. абрáд прадказáньня

**august** [ɔːˈgʌst] adj. вéлічны; маестатьíчны; глыбóка паважáны

**August** [ˈɔːgəst] – n. жнí|вень -ўня *m.*
– adj. жнíвеньскі

**Augustan** [ɔːˈgʌstən] adj. аўгустóўскі: ***Augustan age*** а) эпóха А́ўгуста, эпóха рóсквіту літаратýры ў Рьíме. б) эпóха найбóльшага рóсквіту

**auk** [ɔːk] n. гагáра *f.* (*марскáя арктьíчная птýшка*)

**aunt** [ænt] n. цётка *f.*

**aunty** or **auntie** [ˈænti] n., pl. **aunties** цётачка, цёця *f.*

**aura** [ˈɔːrə] n., pl. **auras, aurae** 1. áўра *f.* 2. атмасфэ́ра *f.* 3. эманáцыя *f.*: ***an aura of holiness*** эманáцыя сьвáтасьці

**aural** [ˈɔːrəl] adj. 1. слыхавьí. 2. вушньí

**aureate** [ˈɔːrieɪt] adj. залатьí; залачóны; залацíсты

**aureole** [ˈɔːrioʊl] n. 1. зьзя́ньне *n.*, арэóл -у *m.*; німб -а *m.* (*на галóвах сьвятьíх*). 2. круг зьзя́ньня навакóл мéсяца, сóнца

**auricle** [ˈɔːrɪkəl] n. 1. вóнкавае вýха. 2. перадсэ́рдзе *n.*

**auricular** [ɔːˈrɪkjələr] adj. 1. вушньí. 2. сказáны на вýха: ***auricular confession***

ці́хая спо́ведзь. 3. у фо́рме ву́ха, вушкава́ты. 4. перадсардэ́чны

**auriferous** [ɔ:ˈrɪfərəs] adj. які́ ма́е ў сабе́ зо́лата, залатано́сны

**aurochs** [ˈɔ:rɑ:ks] n., pl. **-rochs** 1. зу́б|ар -ра *m.* 2. вы́мерлы эўрапе́йскі тур

**Aurora** [əˈrɔ:rə] n., Myth. Аўро́ра *f.*, багі́ня сьвіта́ньня

**aurora** [əˈrɔ:rə] n., pl. **-ras, -rae** ра́ньняя зара́, зо́л|ак -ку *m.*, до́сьвіт|ак -ку *m.*, сьвіта́ньне *n.*

• ***aurora australis*** [ɔ:ˈstreɪləs] паўдзённае зьзя́ньне

• ***aurora borealis*** [bɔ:riˈæləs] паўно́чнае зьзя́ньне

**auscultate** [ˈɔ:skəlteɪt] v. праслу́хоўваць (*хво́рага*)

**auscultation** [ˌɔ:skəlˈteɪʃən] n. 1. праслухо́ўваньне *n.* 2. выслухо́ўваньне пацые́нта

**auspices** [ˈɔ:spɪsɪz] n., pl. 1. спрыя́льныя ўмо́вы, адзна́ка ўда́чы. 2. прыкме́ты, прадказа́ньні *pl.* 3. апе́ка, ахо́ва *f.*: ***under the auspices of*** пад апе́кай *каго́*

**auspicious** [ɔ:ˈspɪʃəs] adj. 1. спрыя́льны, уда́лы, памы́сны: ***an auspicious beginning*** памы́сны пача́так. 2. ра́дасны: ***auspicious occasion*** ра́дасная наго́да

**austere** [ɔ:ˈstɪr] adj. 1. суро́вы, стро́гі. 2. аскеты́чны, патрабава́льны да сябе́. 3. про́сты (*пра стыль*): ***an austere beauty*** про́стая прыгажо́сьць. 4. пава́жны; цьвяро́зы

**austerity** [ɔ:ˈsterəti] n., pl. **-ties** 1. стро́гасьць, суро́васьць *f.* 2. суро́вы спо́саб жыцьця́: ***program of austerity*** прагра́ма ашча́днасьці

**austral** [ˈɔ:strəl] adj. паўдзённы

**Australian** [ɔ:ˈstreɪliən] – adj. аўстралі́йскі – n. аўстралі́ец -йца *m.*, аўстралі́йка *f.*

**Austrian** [ˈɔ:striən] – adj. аўстры́йскі – n. аўстры́|ец -йца *m.*, аўстры́йка, аўстрыя́чка *f.*

**Austro-Hungarian** [ˌɔ:stroʊhʌŋˈgeriən] adj. аўстра-вуго́рскі

**autarchy** [ˈɔ:tɑ:rki] n., pl. **-chies** 1. аўтакра́тыя, абсалю́тная ўла́да, самаўла́дства *n.*; дэспаты́зм -у *m.*

**autarky** [ˈɔ:tɑ:rki] n., pl. **-kies** аўта́ркія *f.*, эканамі́чная самазабясьпе́чанасьць; эканамі́чная незале́жнасьць

**authentic** [ɔ:ˈθentɪk] adj. 1. арыгіна́льны, сапра́ўдны, аўтэнты́чны: ***an authentic account*** аўтэнты́чны дакумэ́нт. 2. верагоॅдны, пэ́ўны; праўдзі́вы, пра́вільны

**authentically** [ɔ:ˈθentɪkəli] adv. 1. верагоॅдна, праўдзі́ва. 2. арыгіна́льна; аўтэнты́чна

**authenticate** [ɔ:ˈθentɪkeɪt] v.t. 1. заве́рваць. 2. пака́зваць сапра́ўднасьць, аўтэнты́чнасьць

**authenticity** [ˌɔ:θenˈtɪsəti] n. 1. верагоॅднасьць, пэ́ўнасьць *f.* 2. аўтэнты́чнасьць; сапра́ўднасьць *f.*

**author** [ˈɔ:θər] n. 1. а́ўтар -а *m.*, пісьме́ньнік -а *m.*: ***Have you read this author?*** Ці вы чыта́лі гэ́тага а́ўтара? 2. тво́рц|а -ы *m. & f.*, ініцыя́тар -а *m.*

**authoritarian** [ɔ:ˌθɔ:rəˈteriən] adj. аўтарыта́рны, недэмакраты́чны

**authoritative** [əˈθɔ:rəteɪtɪv] adj. 1. аўтарытэ́тны, уплыво́вы. 2. ула́дны: ***in authoritative tone*** ула́дным то́нам. 3. верагоॅдны, ва́рты даве́ру: ***authoritative source*** ва́ртая даве́ру крыні́ца

**authority** [əˈθɔ:rəti] n., pl. **-ties** 1. аўтарытэ́т -у *m.* 2. ула́да, моц *f.*; упра́ва *f.* 3. уплы́|ў -ву *m.*, зна́чаньне, значэ́ньне *n.* 4. аўтарытэ́тная крыні́ца інфарма́цыі. 5. зна|ве́ц, зна́|ўца *m.*, экспэ́рт -а *m.* 6. пра́ва, паўнамо́цтва *n.*: ***authority to sign*** пра́ва по́дпісу; ***to have authority*** мець паўнамо́цтва

• ***the authorities*** ула́ды

**authorization** [ˌɔ:θərəˈzeɪʃən] n. 1. упаўнава́жаньне *n.*, афіцы́йны дазво́л, пра́ва *n.* 2.зацьве́рджаньне *n.*; са́нкцыя *f.*

**authorize** [ˈɔ:θəraɪz] v.t. 1. упаўнава́жваць. 2. санкцыянава́ць, зацьвярджа́ць, рабі́ць правамо́цным. 3. дава́ць пра́ва; даруча́ць, дапушча́ць; дазваля́ць. 4. паруча́цца *за каго́*

**authorship** [ˈɔ:θərʃɪp] n. áўтарства *n.*
**auto** [ˈɔ:toʊ] n. áўта *n.*, аўтамабíл|ь -я *m.*
**auto-** pref. сáма-, áўта-: ***autohypnosis*** самагіпнóз, аўтагіпнóз -у *m.*
**autobiographer** [ˌɔ:təbaɪˈɑ:grəfər] n. аўтабіёграф -а *m.*
**autobiographical** [ˌɔ:təˌbaɪəˈgræfikəl] adj. аўтабіяграфíчны
**autobiography** [ˌɔ:təbaɪˈɑ:grəfi] n., pl. **-phies** аўтабіягрáфія *f.*
**autocephalic** [ˌɔ:təsəˈfælɪk] adj., *гл.* **autocephalous**
**autocephalous** [ˌɔ:təˈsefələs] adj. аўтакефáльны, самастóйны, самаўлáдны: ***Belarus(i)an Autocephalous Church*** Беларýская Аўтакефáльная Царквá
**autochthon** [ɔ:ˈtɑ:kθən] n., pl. **-thons, -thones** 1. аўтахтóн -а *m.*; тубы́л|ец -ьца *m.*, тубы́лка *f.*; карэ́нны спрадвéчны жыхáр. 2. мясцóвая арыгінáльная жывёліна *ці* расьлíна
**autochthonic** [ˌɔ:təkˈθɑ:nɪk] adj., *гл.* **autochthonous**
**autochthonism** [ɔ:ˈtɑ:kθəˌnɪzəm] n. аўтахтóннае пахóджаньне; першапачáтныя ўмóвы, аўтахтанíзм -у *m.*
**autochthonous** [ɔ:ˈtɑ:kθənəs] adj. аўтахтóнны; мясцóвы, першапачáтны, карэ́нны
**autoclave** [ˈɔ:toʊkleɪv] – n. аўтакля́|ў -ва *m.*
– v. стэрылізавáць *абó* вары́ць у аўтаклявé
**autocracy** [ɔ:ˈtɑ:krəsi] n., pl. **-cies** 1. самаўлáдзтва *n.*, аўтакрáтыя *f.*, абсалю́тная ўлáда. 2. аўтакраты́чная краíна
**autocrat** [ˈɔ:təkræt] n. 1. самадзéрж|ац -ца *m.*, самаўлáднік -а, аўтакрáт -а, манáрх -а *m.* 2. дэспаты́чны чалавéк
**autocratic** [ˌɔ:təˈkrætɪk] adj. самаўлáдны, самадзяржáўны, дэспаты́чны
**auto da fé** [ˌɔ:toʊdəˈfeɪ] n. аўтадафэ́, *indecl*
**autogamy** [ɔ:ˈtɑ:gəmɪ] n. Bot. самаапылéньн|е -я *n.*
**autograph** [ˈɔ:təgræf] – n. пóдпіс -у *m.*, аўтóграф -у *m.*
– v.t. 1. падпíсваць: ***autographed book*** кнíга з аўтóграфам. 2. уласнарýчна пісáць
**autographical** [ˌɔ:təˈgræfɪkəl] adj. аўтаграфíчны
**automat** [ˈɔ:təmæt] n. 1. аўтамáт -у *m.* 2. рэстарáн-аўтамáт
**automatic** [ˌɔ:təˈmætɪk] – adj. 1. аўтаматы́чны: ***an automatic lock*** аўтаматы́чны замóк. 2. несьвядóмы, міжвóльны, машынáльны
– n. 1. аўтаматы́чная збрóя. 2. маашы́на з аўтаматы́чнай трансьмíсіяй
**automatically** [ˌɑ:təˈmætɪkəli] adv. 1. аўтаматы́чна. 2. міжвóльна; нясьвéдама; машынáльна
**automation** [ˌɔ:təˈmeɪʃən] n. аўтаматызáцыя *f.*
**automobile** [ˈɔ:təmoʊˌbi:əl] – n. аўтамабíл|ь -я *m.*, аўтамашы́на -ы *f.*, áўта *n.*
– adj. аўтамабíльны: ***an automobile engine*** аўтамабíльны рухавíк абó матóр; ***an automobile tire*** аўтамабíльная шы́на
**automotive** [ˌɔ:təˈmoʊtɪv] adj. 1. аўтамабíльны: ***automotive industry*** аўтамабíльная прамыслóвасьць. 2. самахóдны, самарýхаючы
**autonomic** [ˌɔ:təˈnɑ:mɪk] adj. аўтанóмны
**autonomous** [ɔ:ˈtɑ:nəməs] adj. 1. аўтанóмны, самаўрáдавы, самакіравáльны. 2. самастóйны
**autonomy** [ɔ:ˈtɑ:nəmi] n., pl. **-mies** 1. аўтанóмія *f.* а) самаўрáд -у *m.*, самакіравáньне *n.*; незалéжнасьць *f.* б) прáва на самакіравáньне. 2. аўтанóмная дзяржáва. 3. самастóйнасьць *f.*
**autopsy** [ˈɔ:tɑ:psi] n., pl. **-sies** анатамавáньне *n.*, разрэ́званьне, сэ́кцыя трýпа
**autumn** [ˈɔ:təm] n. вóсень *f.*
– adj. вóсеньскі, асéньні
**autumnal** [ɔ:ˈtʌmnəl] adj. вóсеньскі, асéньні
**auxiliary** [ɔ:gˈzɪliəri] – adj. 1. дапамóжны: ***auxiliary verb*** дапамóжны дзеяслóў; ***auxiliary troops*** дапамóжныя вóйскі. 2. дадаткóвы; запасны́: ***an auxiliary lighting system*** запасная сыстэ́ма асьвятлéньня

– n. 1. памагáтІы -ага *m.*, памóчнік -a *m.*, памóчніца *f.* 2. Gram. дапамóжны дзеяслóў. 3. дапамóжная грýпа: ***a women's auxiliary*** дапамóжная жанóцкая грýпа

**avail** [əˈveɪl] – v.i. 1. быць карысным, вáртасным, прыдáтным. 2. дапамагáць. 3. карыстáцца: ***to avail oneself of*** скарыстáць з *чагó*, вы́карыстаць *што*

– n. ужы́тІак -ку *m.*; кары́сьць, дапамóга, прыдáтнасьць *f.*: ***of avail*** кары́сны, прыдáтны, здáтны; ***of no avail*** бескары́сны, непрыдáтны

**availability** [əˌveɪləˈbɪləti] n., pl. **-ties** 1. дастýпнасьць *f.*; наяўнасьць *f.*

**available** [əˈveɪləbəl] adj. 1. наяўны, дастýпны: ***all available funds*** усé наяўныя грашóвыя срóдкі: ***by available means*** усíмі дастýпнымі срóдкамі; ***This book is not available*** Гэ́тае кнíгі нéльга дастáць. 2. дастýпны, незаня́ты

**avalanche** [ˈævəlæntʃ] – n. 1. лавíна *f.* 2. Figur. мáса *f.*, патóк -у *m.*: ***an avalanche of questions*** патóк пытáньняў

**avarice** [ˈævərɪs] n. прагавíтасьць, прáгнасьць, хцíвасьць *f.*; скнáрасьць, скýпасьць *f.*

**avaricious** [ˌævəˈrɪʃəs] adj. прагавíты; хцíвы; скнáрлівы; скупы́

**ave** [ˈɑːveɪ] interj. вітáй, будзь прывітáны, бывáй

**Ave Maria** «Прывітáная будзь, Мары́я» (*малíтва і пéсьня*)

**avenge** [əˈvendʒ] – v.t. пóмсьціць

– v.i. пóмсьціцца, памсьцíцца, адплáчваць, пóмсьціць

**avenger** [əˈvendʒər] n. мсьцíІвец -ўца *m.*, мсьцíвіца *f.*

**avenue** [ˈævənuː] n. 1. авэню́, праспэ́кт -у *m.* 2. алéя *f.* 3. шлях -у *m.*: ***avenues to fame*** шляхí да слáвы

**aver** [əˈvɜːr] v.t. сьцьвярджáць, казáць, упэ́ўніваць, запэ́ўніваць

**average** [ˈævərɪdʒ] – n. 1. сярэ́дняя велічыня́; сярэ́дняе *n.*: ***below average*** ніжэ́й за сярэ́дняе; ***on an average*** у сярэ́днім

– adj. 1. сярэ́дні. 2. звычáйны, нармáльны, сярэ́дні: ***average intelligence*** сярэ́дні інтэлéкт; ***average height*** сярэ́дні рост

– v.t. 1. вывóдзіць сярэ́дні лік. 2. дасягáць у сярэ́днім: ***We averaged sixty miles an hour*** Мы éхалі ў сярэ́днім 60 мíляў на гадзíну

**averse** [əˈvɜːrs] adj. супрацíўны, непрыхíльны, неахвóтны: ***to feel averse to something*** мець неахвóту да *чагó*

**aversion** [əˈvɜːrʒən] n. 1. агíда, антыпáтыя *f.*: ***an aversion to shrimp*** агíда да крэвэ́так. 2. прадмéт антыпáтыі, агíды: ***Politics is his pet aversion*** Да палíтыкі ў ягó асаблíвая антыпáтыя. 3. неахвóта *f.*; непрыхíльнасьць *f.*

**avert** [əˈvɜːrt] v.t. 1. адхіля́ць, прадухіля́ць: ***He averted an accident*** Ён прадухілíў катастрóфу. 2. адвóдзіць; адварóчваць: ***to avert one's glance*** адвéсьці вóчы

**avian** [ˈeɪviən] adj. птушы́ны

**aviary** [ˈeɪvieri] n., pl. **-ries** птýшнік -а *m.*

**aviation** [ˌeɪviˈeɪʃən] n. авія́цыя *f.*, лётніцтва *n.*

**aviator** [ˈeɪvieɪtər] n. пілёт, авія́тар, лётнік -а *m.*

**avid** [ˈævid] adj. 1. хцíвы, прагавíты. 2. заўзя́ты: ***an avid reader*** заўзя́ты чытáч

**avidity** [əˈvɪdəti] n. 1. хцíвасьць, прáга *f.* 2. запáл -у *m.*, стрáснасьць, заўзя́тасьць *f.*

**avitaminosis** [eɪˌvɪtəməˈnoʊsɪs] n. авітамінóз -у *m.*, недахóп вітамíнаў

**avocado** [ˌævəˈkɑːdoʊ] n. авакáда *n.*

**avocation** [ˌævəˈkeɪʃən] n. 1. пабóчны заня́так. 2. паклікáньне *n.*, галóўны заня́так. 3. разры́ўка *f.*

**avocet** [ˈævəset] n. шыладзю́б -а *m.*

**avoid** [əˈvɔɪd] v.t. 1. унікáць, пазьбягáць, ухіля́цца, высьцерагáцца, абмінáць: ***to avoid crowds*** пазьбягáць натóўпу. 2. Law касавáць, анулявáць, рабíць няважным

**avoidable** [əˈvɔɪdəbəl] adj. пазьбягáльны, якí мóжна пазьбéгнуць, абмінýць: ***Delays are avoidable*** Адклáдаў мóжна пазьбéгнуць

**avoidance** [əˈvɔɪdəns] n. 1. уніка́ньне, абміна́ньне *n.*, уцяка́ньне, ухіле́ньне *n.* 2. Law скасава́ньне, ануля́ваньне *n.*

**avoirdupois** [ˌævərdəˈpɔɪz] n. англе́льская сыстэ́ма ме́раў вагі́

**avouch** [əˈvaʊtʃ] v.t. 1. сьцьвярджа́ць; упэ́ўніваць. 2. гарантава́ць, руча́цца. 3. прызнава́ць; пацьвярджа́ць

**avouchment** [əˈvaʊtʃmənt] n. 1. сьцьве́рджаньне *n.* 2. запэ́ўненьне *n.*, гара́нтыя *f.* 3. прызна́ньне, пацьве́рджаньне *n.*

**avow** [əˈvaʊ] v.t. прызнава́цца, шчы́ра каза́ць

**avowal** [əˈvaʊəl] n. прызна́ньне *n.*

**avowed** [əˈvaʊd] adj. адкры́та прызна́ны

**avuncular** [əˈvʌŋkjələr] adj. 1. дзя́дзькаў. 2. Figur. сардэ́чны, як дзя́дзька

**await** [əˈweɪt] v.t. чака́ць: ***Many pleasures await you*** Шмат пры́емнага чака́е цябе́

**awake** [əˈweɪk] **awoke** or **awaked** – v.i. прачына́цца
– v.t. 1. будзі́ць: ***Awake me at six o'clock*** Пабудзе́це мяне́ а шо́стай. 2. абуджа́ць; узбуджа́ць (*зацікаўле́ньне*)
– adj. 1. прачну́ўшыся: ***to be awake*** ня спаць; ***wide awake*** зусім прачну́ўшыся. 2. пі́льны; сьве́дамы: ***to be awake to opportunities*** быць сьве́дамым, я́сна разуме́ць магчы́масьці
• ***awake to smth*** усьведамі́ць, адчыні́ць во́чы на не́шта

**awaken** [əˈweɪkən] – v.i. прачына́цца, прачну́цца
– v.t. 1. абуджа́ць; узбуджа́ць. 2. узбуджа́ць: ***to awaken compassion*** узбудзі́ць спачува́ньне

**awakening** [əˈweɪkənɪŋ] n. абуджэ́ньне *n.*
• ***rude awakening*** го́ркае расчарава́ньне

**award** [əˈwɔːrd] – v.t. 1. узнагаро́джваць. 2. прысуджа́ць, вызнача́ць: ***The court awarded $5,000 to the injured man*** Суд прысудзі́ў пакале́чанаму чалаве́ку 5000 даля́раў
– n. 1. узнагаро́да *f.* 2. прысу́джанае адшкадава́ньне

**aware** [əˈwer] adj. сьве́дамы: ***He is aware of danger*** Ён сьве́дамы небясьпе́кі; ***I am aware that ...*** Я ве́даю, што...

**awareness** [əˈwernəs] n. усьведамле́ньне *n.*: ***awareness of danger*** усьведамле́ньне небясьпе́кі

**awash** [əˈwɔːʃ] adv., adj. 1. пакры́ты вадо́ю. 2. не́сены вадо́ю, кі́даны хва́лямі. 3. Figur. напо́ўнены, перапо́ўнены, які́ перапліва́ецца: ***The music was awash with melancholy*** Му́зыка была́ напо́ўненая мэлянхо́ліяй

**away** [əˈweɪ] adv. 1. далёй: ***Get away from the fire*** Адыдзі́ся далёй ад агню́. 2. далёка: ***far away from home*** далёка ад до́му; ***a mile away*** за мі́лю адгэ́туль. 3. *абазнача́е рух, адда-ле́ньне*: ***to go away*** адыйсьці́ся; пайсьці́: ***He is away*** Няма́ яго́; ***throw away*** вы́кінуць; ***to turn away*** адвярну́цца; ***to give away*** адда́ць. 4. *абазнача́е зніка́ньне, зьнішчэ́ньне*: ***The sounds died away*** Гу́кі заме́рлі; ***to boil away*** выкіпа́ць; ***waste away*** со́хнуць, занепада́ць здаро́ўем. 5. бесьпераста́нку, безупы́нна: ***to work away*** безупы́нна працава́ць. 6. адра́зу ж, за́раз жа: ***Fire away!*** За́раз жа страля́й!
• ***Away with him*** Дало́ў яго́!
• ***do away with*** а) пако́нчыць з *чым*; пазбы́цца *каго́-чаго́*. б) забі́ць *каго́*

**awe** [ɔː] – n. вялі́кі страх і зьдзіўле́ньне, страх і глыбо́кая паша́на, захапле́ньне *n.*: ***to be in awe of*** мець глыбо́кую паша́ну да *каго́*, быць у захапле́ньні
– v.t. напаўня́ць стра́хам і глыбо́кай паша́най

**awesome** [ˈɔːsəm] adj. 1. жахлі́вы: ***A great fire is an awesome sight*** Вялі́кі пажа́р — жахлі́вае відо́вішча. 2. по́ўны паша́ны: ***awesome admiration*** захапле́ньне по́ўнае глыбо́кае паша́ны

**awe-stricken** [ˈɔːˌstrɪkən] adj. ахо́плены стра́хам і глыбо́кай паша́най

**awe-struck** [ˈɔːstrʌk] adj. *гл.* **awe-stricken**

**awful** [ˈɔːfəl] adj. 1. жахлі́вы; стра́шны, страшэ́нны: ***an awful storm*** страшэ́нная навальні́ца. 2. Informal надзвы-

ча́йны, жу́дасны; ве́льмі благі́, брыдкі́: ***His room was an awful mess*** Ягóны пакóй быў у жу́дасным беспара́дку. 3. гóдны глыбóкае паша́ны, дастóйны; ве́лічны, імпаза́нтны: ***the awful power of God*** ве́лічная сíла Бóжая

**awfully** [ˈɔ:fli] adv. 1. стра́шна; страшэ́нна. 2. Informal ве́льмі, мóцна: ***I'm awfully sorry*** Я мóцна выбача́юся; ***awfully good of you*** ве́льмі мíла з ва́шага бóку

**awhile** [əˈhwaɪəl] adv. часíнку; хвілíнку; нядóўга; крыху́: ***Wait awhile*** Пачака́й крыху́

**awkward** [ˈɔ:kwərd] adj. 1. нязгра́бны; нехлямя́жы; няўда́лы, непаварóтлівы: ***an awkward person*** целяпе́нь. 2. нязру́чны; невыгóдны. 3. цяжкí, цяжкава́ты. 4. няёмкі: ***an awkward situation*** няёмкае станóвішча

**awkwardly** [ˈɔ:kwərdli] adv. нязгра́бна, нехлямя́жа; *гл.* **awkward**

**awl** [ɔ:l] n. шы́ла *n.*

**awn** [ɔ:n] n. асьцю́к -á *m.* (*на каласóх*)

**awning** [ˈɔ:nɪŋ] n. маркíза *f.*, наве́с -а *m.* (*над вакнóм, дзьвярыма*)

**awoke** [əˈwoʊk] v., *p.t. and p.p. of* **awake**

**awry** [əˈraɪ] – adv. 1. кры́ва, набóк: ***His tie is awry*** Ягóны га́льштук зье́хаў набóк. 2. Figur. няпра́вільна, наадварóт, бла́га: ***Our plans have gone awry*** На́шыя пля́ны пераблы́таліся
– adj. 1. крывы́, перакры́ўлены: ***a face awry with pain*** твар, перакры́ўлены ад бóлю. 2. няпра́вільны, пераблы́таны

**ax** or **axe** [æks] – n., pl. **axes** 1. сяке́ра *f.* 2. старада́ўная баява́я збрóя
– v.t. 1. сячы (*дрóвы*); цяса́ць (*сяке́рай*). 2. Informal звальня́ць, скарача́ць. 3. абрэ́зваць, рэдукава́ць; мóцна абніжа́ць: ***ax the budget*** зрэ́заць, абрэ́заць бюджэ́т
• ***get the ax*** быць звóльненым *абó* адкíнутым

**axial** [ˈæksiəl] adj. вóсевы; уздóўж, на абó каля́ вóсі

**axiom** [ˈæksiəm] n. 1. аксіёма *f.* 2. усталява́ны пры́нцып

**axiomatic** [ˌæksiəˈmætɪk] adj. аксіяматы́чны, самавідавóчны, бясспрэ́чны

**axis** [ˈæksɪs] n., pl. **axes** вось *f.*: ***the earth's axis*** зямная вось

**axle** [ˈæksəl] n. вось кóла

**aye** [aɪ] – adv. = **yes** так, але́
– n. гóлас за: ***The ayes have it*** Бальшыня́ галасóў за

**azalea** [əˈzeɪliə] n., Bot. аза́лія *f.*

**Azerbaijani** [ˌɑ:zərbaɪˈdʒɑ:ni] – n. 1. азэрбайджа́нская мóва. 2. азэрбайджа́нец -ца *m.*, азэрбайджа́нка *f.*
– adj. азэрбайджа́нскі

**azimuth** [ˈæzɪməθ] n., Astron. а́зімут -у *m.*

**azote** [əˈzoʊt] n. азóт -у *m.*

**azure** [ˈæʒər] – n. блакíт -у *m.*, сьве́тласíні кóлер
– adj. блакíтны

# B

**B, b** [bi:] n. **B's, b's** 1. *другáя лíтара ангéльскага альфабэ́ту*. 2. другí гатýнак: ***grade B apples*** я́блыкі другóга гатýнку. 3. шкóльная адзнáка «дóбра»: ***to get a B in Belarusian*** атрымáць дóбра зь беларýскае мóвы. 4. Mus. сі (*нóта*)

**B.A.** or **BA** [ˌbiːˈeɪ] *гл.* **Bachelor of Arts**

**baa** [bæ] – n., pl. **baas** бляя́ньне *n.*
– v.i. **baaed, baaing** бляя́ць

**babbitt** [ˈbæbɪt] – n. бабíт -у *m.* (*сплаў*)
– v. залівáць бабíтам

**babble** [ˈbæbəl] – v.i. 1. лепятáць (*як дзіця́*). 2. лапатáць, балбатáць; прабалбатáцца
– v.t. разбалбатáць: ***to babble a secret*** разбалбатáць таямнíцу
– n. лепятáньне *n.* (*дзіця́ці*), балбатáньне, лапатáньне *n.*, балбатня́ *f.* 2. бýлькат -у *m.* (*вадьí*), цурчэ́ньне *n.* (*струмяня́*)

**babbler** [ˈbæblər] n. балбатýн -á, лапатýн -á, марнаслóў -ва, гаварýн -á *m.*

**babe** [beɪb] n. 1. дзіця́тка, дзіця́ *n.* 2. нявíнная *абó* недасьвéдчаная асóба. 3. Sl. прыгóжая дзяўчы́на
• ***babes and sucklings*** навічкí, недасьвéдчаныя лю́дзі
• ***babe in the wood(s)*** давéрлівы чалавéк, сьвятáя наіўнасьць

**baboon** [bəˈbuːn] n. 1. павія́н -а *m.* (*мáлпа*). 2. грубія́н -а *m.*; нехлямя́жы чалавéк

**baby** [ˈbeɪbi] – n., pl. **-bies** 1. дзіця́, дзіцяня́; дзіця́тка, немаўля́тка *n.* 2. наймаладзéйшы зь дзяцéй у сям'í. 3. Figur. дзéцішча *n.*, улюбёны заня́так, ідэ́я: ***This project was his baby*** Гэ́ты праéкт быў ягóным дзéцішчам
– adj. 1. дзіця́чы. 2. маладьí: ***a baby lamb*** маладáя барáніна. 3. малы́: ***a baby car*** малóе áўта. 3. дзяцíны, неравáжны
• ***baby boom*** вы́бух нараджáльнасьці
• ***baby boomer*** асóба, нарóджаная падчáс уздьíму нараджáльнасьці
• ***baby carriage*** дзіця́чы вазóк
• ***baby food*** дзіця́чая éжа, дзіця́чае харчавáньне

**babyhood** [ˈbeɪbɪhʊd] n. 1. малéнства *n.* (*перы́яд*). 2. немаўля́ты *pl.*

**babyish** [ˈbeɪbiɪʃ] adj. як дзіця́, дзяцíны; дурасьлíвы

**Babylon** [ˈbæbəlɑːn] n. Бабілён -у *m.*

**Babylonian** [ˌbæbɪˈloʊniən] – adj. бабілёнскі
– n. бабілён|ец -ца *m.*, бабілёнка *f.*

**babysit** [ˈbeɪbisɪt] v.i., **-sat, -sitting** даглядáць дзяцéй (*часóва*), сядзéць зь дзéцьмі

**babysitter** ня́нька *f.*

**babysitting** [ˈbeɪbisɪtɪŋ] n. даглядáньне дзяцéй, сядзéньне зь дзéцьмі

**baby talk** дзіця́чае лепятáньне

**babywatch** [ˈbeɪbiwɔːtʃ] esp. Brit. *гл.* **babysit**

– adv. 1. наўскóс, па дыяганáлі. 2. кóса; няпрáвільна

**biased** [ˈbaɪəst] adj. прадузя́ты, небесстарóнні, неаб'екты́ўны: ***a biased opinion*** неаб'екты́ўны пагля́д, неаб'екты́ўная ду́мка

**biaxial** [ˌbaɪˈæksiəl] adj. двухвóсевы: ***a biaxial crystal*** двухвóсевы крыштáль

**bib** [bɪb] – n. 1. сьлiня́ўка *f.*, дзіця́чы нагру́днік, нагру́днічак. 2. чáстка фартухá *ці* камбінэзóна вышэ́й пóяса
– v. шмат піць, выпівáць
• ***bib and tucker,*** Informal вóпратка, адзéньне

**Bible** [ˈbaɪbəl] n. Бíблія *f.*

**Biblical** or **biblical** [ˈbiblɪkəl] adj. біблі́йны, біблéйскі

**bibliographer** [ˌbibliˈɑːgrəfər] n. бібліёграф -а *m.*

**bibliographical** [ˌbibliəˈgræfɪkəl] adj. бібліяграфíчны

**bibliography** [ˌbibliˈɑːgrəfi] n., pl. **-phies** бібліягрáфія f.

**bibliomania** [ˌbibliəˈmeɪniə] n. бібліямáнія f.

**bibliophile** [ˈbiblɪəfaɪl] n. кнігалю́б -а, бібліяфíл -а m.

**bibliophilism** [ˌbibliˈɑːfɪˌlɪzəm] n. кнігалю́бства, бібліяфíльства n.

**bibliopole** [ˌbibliəˈpoʊl] n. антыквáр -а m. (*які́ гандлю́е рэ́дкімі кнíгамі*)

**bicameral** [baɪˈkæmərəl] adj. двухпалáтны (*парля́мэнт*)

**bicarbonate** [baɪˈkɑːrbənet] – n., Chem. двухвуглякíслая соль
– adj. двухвуглякíслы

**bicentenary** [ˌbaɪsenˈtenəri] – n., pl. **-naries** 1. двухсотгóдзьдзе n. 2. двухсотгадóвыя ўгóдкі
– adj. двухсотгадóвы

**bicentennial** [ˌbaɪsenˈteniəl] – adj. 1. двухсотгадóвы. 2. які́ паўтарáецца кóжныя 200 гадóў
– n. 1. двухсотгадóвыя ўгóдкі. 2. сьвяткавáньне гэ́тых угóдкаў

**bicephalous** [ˌbaɪˈsefələs] adj. двухгалóвы

**biceps** [ˈbaɪseps] n. 1. біцэ́пс -а *m.* (*му́скул*). 2. Informal разьвíтыя му́скулы

**bicker** [ˌbɪkər] – v.i. 1. спрачáцца; вáдзіцца, свары́цца. 2. мармытáць
– n. 1. свáрка, звáдка *f.* 2. мармытáньне *n.*

**bicolored** or **bicoloured** [ˌbaɪˈkʌlərd] adj. двухкóлерны

**biconcave** [ˌbaɪˈkɑːnkeɪv] adj. двая́каўвагну́ты

**biconvex** [ˌbaɪˈkɑːnveks] adj. двая́кавыпуклы

**bicycle** [ˈbaɪsɪkəl] – n. веласіпэ́д -а *m.*, рóвар -а *m.*
– v.i. éхаць веласіпэ́дам

**bicycle rack** багáжнік на веласіпэ́дзе

**bicyclist** [ˈbaɪsɪklɪst] n. веласіпэды́ст -а *m.*, веласіпэды́стка *f.*

**bid** [bɪd] **bade, bid** or **bad, bidden** or **bid, bidding** – v.t. 1. загáдваць, накáзваць: ***Do as I bid you*** Рабí, як я табé накáзваю. 2. вітáць, казáць: ***to bid good night*** пажадáць дóбрае нóчы; ***His friends came to bid him good-bye*** Ягóныя сябры́ прыйшлí разьвітáцца зь ім. 3. (*p.t. and p.p. of* **bid**) прапанóўваць: ***She bid five dollars for the table*** Янá прапанавáла пяць даляраў за стол. 4. аб'яўля́ць; абвяшчáць: ***to bid defiance*** абвéсьціць непаслухмя́нства, непадпрáдкавацца. 5. запрашáць
– v.i. прапанóўваць, давáць цану́: ***to bid at an auction*** прапанавáць цану́ на таргóх
– n. 1. прапанавáньне, загáдваньне *n.* 2. прапанавáная су́ма. 3. заяўка, стáўка *f.* (*у кáртах*)
• ***bid for*** старáцца забясьпéчыцца (*у канкурэ́нцыі*)
• ***bid up*** падбівáць цану́ на ліцытáцыі

**bidarka** [baɪˈdɑːrkə] n. байдáрка *f.*

**biddable** [ˈbɪdəbəl] adj. 1. паслухмя́ны. 2. мóцная, вы́йгрышная (*кáрта для стáўкі*)

**bidder** [ˈbɪdər] n. асóба, якáя прапану́е цэ́ны на ліцытáцыі, паку́пнік на ліцытáцыі

**bidding** [ˈbɪdɪŋ] n. 1. наказ -у *m.*, каманда *f.* 2. запросіны *pl. only.* 3. прапановы на ліцытацыі. 4. заяўка, стаўка *f.* (*у картах*)

*• **at the bidding of*** пад нечай камандай; на чыёсь запатрабаваньне

*• **do one's bidding*** падпарадкавацца

**biennial** [baɪˈeniəl] – adj. 1. двухгадовы. 2. які адбываецца раз на два гады
– n. 1. Bot. двугадовая расьліна. 2. двухгодзьдзіе -я *n.*

**bier** [bɪr] n. 1. пахавальныя насілкі, катафальк -у *m.* 2. грабніца *f.*, мураваны дол

**biferous** [baɪˈferəs] adj., Bot. які цьвіце *або* родзіць двойчы ў год

**bifid** [ˈbaɪfɪd] adj. раздвоены; разгалінаваны

**bifocal** [ˌbaɪˈfoʊkəl] – adj. двухфокусны
– n. двухфокусная лінза

*• **bifocals*** двухфокусныя акуляры

**bifoliate** [ˌbaɪˈfoʊliət] adj. двулісны, з двума лістамі

**biforked** [ˈbaɪfɔ:rkt] adj. раздвоены, разьвілісты

**bifurcate** [ˈbaɪfɜ:rkeɪt] – v. разгаліноўвацца
– [ˌˈbaɪˈfɜ:rkeɪt] adj. раздвоены; разьвілісты

**bifurcation** [ˌbaɪfərˈkeɪʃən] n. 1. раздваеньне *n.* 2. разьвіліна *f.*

**big I** [big] adj. **bigger, biggest** 1. вялікі, абшырны; буйны: ***big business*** буйны капітал. 2. дарослы, вырослы: ***You are a big girl now*** Ты ўжо дарослая дзяўчына. 3. Informal важны, выдатны: ***This is big news*** Гэта важная навіна; ***He is a big man*** Ён — выдатны чалавек. 4. a) поўны, моцны: ***a big voice*** поўны, моцны голас. 5. поўны самахвальства: ***big talk*** самахвальства. 6. цяжарная

*• **big deal**,* Informal вялікае дзіва

**big II** or **bigg** [big] n. род ячменю

**bigamy** [ˈbigəmi] n., pl. **-mies** дваяжэнства, дваямужжа *n.*, бігамія *f.*

**bigheaded** [ˌbigˈhedɪd] adj. самапэўны, упарты

**bighearted** [ˌbigˈhɑ:rtɪd] adj. велікадушны; міласэрны; шчодры

**bight** [baɪt] n. 1. выгін (*ракі*). 2. затока, бухта *f.* 3. згін, выгін -у *m.*; кут -а *m.*; рог -у *m.*

**bigness** [ˈbignəs] n. 1. велічыня *f.* 2. памер -у *m.* 3. важнасьць, веліч *f.*

**bigot** [ˈbigət] n. неталерантная асоба; фанатык -а *m.*, фанатычка *f.*

**bigoted** [ˈbigətɪd] adj. няпрыцярплівы; неталерантны; фанатычны

**bigotry** [ˈbigətri] n., pl. **-ries** фанатызм -у *m.*, няпрыцярплівасьць, неталерантнасьць *f.*

**big shot,** n. Sl. важная асоба, вялікая шышка

**big stick** эфэктны, моцны сродак

**big wheel** Sl. уплывовая, аўтарытэтная або важная асоба

**bijouterie** [bi:ˈʒu:təri] n. біжутэрыя *f.*

**bike I** [baɪk] n., Informal веласіпэд, ровар -а *m.*

**bike II** [baɪk] n., Scot. 1. асінае гняздо, гняздо шэршняў *або* дзікіх пчолаў. 2. Figur. рой -ю *m.*, натоўп -у *m.*

**bikini** [bɪˈki:ni] n. бікіні, *n., indecl.* (*жаночы купальнік*)

**bilabial** [baɪˈleɪbiəl] – adj., Bot. двугубны
– n. губны зычны

**bilateral** [baɪˈlætərəl] adj. 1. з двума сымэтрычнымі бакамі. 2. двухбаковы; узаемны: ***a bilateral treaty*** двухбаковае пагадненьне

**bilberry** [ˈbɪlˌberi] n., pl. **-ries** ягада, падобная да чарніцы

**bile** [baɪl] n. 1. жоўць *f.* 2. Figur. зьедлівасьць, злосьць *f.*

**bile acid** жоўцевая кіслата

**bile duct** жоўцевая пратока

**bilestone** [ˈbaɪlstoʊn] n. = **gallstone** жоўцевы камень

**biliary** [ˈbɪlieri] adj. жоўцевы

**bilingual** [baɪˈlɪŋgwəl] adj. двухмоўны

**bilious** [ˈbɪliəs] adj. 1. жоўцевы. 2. хворы на жоўць ці печань. 3. Figur. бурклівы, зласьлівы; злосны, у злым гуморы

**bilk** [bɪlk] – v.t. 1. ухіля́цца, выкру́чвацца (*ад спла́ты до́ўгу*). 2. ашу́кваць. 3. ухіля́цца; уцяка́ць
– n. 1. дро́бны круцёль; ашука́н|ец -ца *m*. 2. ашука́нства *n*.

**bill I** [bɪl] n. 1. раху́н|ак -ку *m*. 2. банкно́т -у *m*.: ***a dollar bill*** даляро́вы банкно́т 3. абве́стка *f*.: ***Post no bills*** Не наклейвайце абве́стак. 4. сьпіс прадме́таў, інвэнта́р -у́ *m*. 5. тэатра́льная праґра́ма. 6. зако́напрае́кт -у, біл|ь -ю *m*. 7. вэ́ксал|ь -ю *m*., чэк -у *m*. 8. Law пісьмо́вая зая́ва ў суд, судо́вая по́зва
–v.t. 1. пасыла́ць раху́нак. 2. уно́сіць у раху́нак. 3. накле́йваць афішы, заклейваць афі́шамі. 4. абвяшча́ць, падава́ць да ве́дама. 5. уно́сіць, упі́сваць у накладну́ю
• ***fill the bill,*** Informal задаво́ліць вымо́гі, зрабі́ць усё, што трэ́ба
• ***foot the bill,*** Informal заплаці́ць, залаго́дзіць раху́нак

**bill II** [bɪl] – n. дзю́ба *f*.: ***the bill of a duck*** дзю́ба ка́чкі; ***the bill of a turtle*** во́стры нос чарапа́хі
– v.i. 1. цалава́цца дзю́бкамі (*пра галубо́ў*). 2. пе́сьціцца
• ***bill and coo*** пе́сьціцца; буркава́ць, як галубкі́

**billboard** [ˈbɪlbɔ:rd] n. до́шка для абве́стак *або́* рэкля́мы

**billet I** [ˈbɪlɪt] – n. 1. о́рдэр для пастóю (*жаўне́ра*). 2. кватэ́ра *f*. (*для пасто́ю*). 3. прызначэ́ньне *n*., пост паста́ *m*., стано́вішча *n*.
– v.t. 1. закватаро́ўваць (*во́йска*). 2. дава́ць кватэ́ры для пасто́ю

**billet II** [ˈbɪlɪt] n. 1. то́ўстае палéна *n*. 2. шта́ба жале́за або́ ста́лі

**billfold** [ˈbɪlfoʊld] n. бума́жнік -а, партманэ́т -а *m*. (*на папяро́выя гро́шы*)

**billhead** [ˈbɪlhed] n. 1. фірмо́вы блянк (*для раху́нкаў*). 2. ша́пка (*фі́рмы, арганіза́цыі*)

**billiard** [ˈbɪljərd] adj. більярдны: ***billiard ball*** більярдная ку́ля

**billiards** більярд -а *m*. (*гульня́*)

**billion** [ˈbɪljən] – n. 1. (in the U.S., Canada) мільярд -у *m*. (*ты́сяча мільёнаў*). 2. Brit. більён -у *m*. (*ты́сяча мілья́рдаў*)
– adj. мільярдны, Brit. більённы

**billionaire** [ˌbɪljəˈner] n. мільярдэ́р -а *m*.

**bill of entry** мы́тная дэкляра́цыя

**bill of fare** мэню́ *n*., сьпіс стра́ваў

**bill of exchange** вэ́ксаль -ю *m*.; пераво́дны вэ́ксаль, тра́та *f*.

**bill of goods** сьпіс тава́раў (*пры перасы́лцы*)

**bill of health** даве́дка пра здаро́ўе.
• ***clean bill of health*** а) даве́дка пра адсу́тнасьць хваро́бы. б) до́брая рэкамэнда́цыя

**bill of rights** акт пра грамадзя́нскія правы́

**bill of sale** акт, дакумэ́нт про́дажу

**billon** [ˈbɪlən] n. 1. білён -у *m*., залаты́ *або́* срэ́бны сплаў. 2. манэ́та зь білёну

**billow** [ˈbɪloʊ] – n. 1. марскі́ вал, вялі́кая хва́ля. 2. клубы́ (*ды́му, пы́лу*)
– v.i. мо́цна хвалява́цца, бур́ыцца, клубі́цца, перава́львацца. 2. надзіма́цца (*ад ве́тру*), узьдзіма́цца

**billowy** [ˈbɪloʊi] adj. **-lowier, -lowiest** 1. узбу́раны вялі́кімі хва́лямі. 2. узьдзьму́ты, надзьму́ты

**billposter** [ˈbɪlˌpoʊstər] n. чалаве́к, які́ расклейвае афі́шы

**billsticker** [ˈbɪlˌstɪkər] n., *гл.* **billposter**

**billy goat,** Informal каз|ёл -ла́ *m*.

**bimanal** [baɪˈmeɪnəl] or **bimanous** [baɪˈmænəs] adj., Zool. двухру́кі

**bimane** [baɪˈmeɪn] n., Zool. двухру́кая жывёла

**bimetallic** [ˌbaɪmeˈtælɪk] adj. 1. з двух мэ́талаў. 2. Econ. бімэталі́чны

**bimetalism** [baɪˈmetəlˌɪzəm] n. бімэталі́зм -у *m*.

**bimonthly** [ˌbaɪˈmʌnθli] – adj. 1. двухме́сячны. 2. паўме́сячны
– adv. 1. двухме́сячна; раз на два ме́сяцы. 2. паўме́сячна, два разы́ на ме́сяц
– n., pl. **-lies** двухме́сячнік -а *m*.

**bin** [bɪn] – n. 1. скры́ня *f*., засе́к -у *m*. (*для збо́жжа, ву́гальля*). 2. Brit. скры́нка для сьме́цьця

– v.t. скіда́ць у скры́ні
**bin-**, prefix *фо́рма "bi-" у пазы́цыі перад гало́снымі*
**binary** [ˈbaɪnəri] adj. падво́йны, двайны́; біна́рны, дваі́чны; па́рны
**binational** [ˌbaɪˈnæʃənəl] adj. двухнацыяна́льны
**bind** [baɪnd] – v.t., **-bound, binding** 1. вяза́ць (*ра́зам*); зьвя́зваць: ***She bound the package with a ribbon*** Яна́ зьвяза́ла паку́нак істу́жкай. 2. трыма́ць ра́зам, скле́йваць, змацо́ўваць: ***Tar will bind gravel*** Смала́ змацу́е жвір. 3. забавя́зваць, прымуша́ць: ***to bind by a promise*** зьвя́зваць абяца́ньнем, абавя́зкамі. 4. апяра́зваць; адзява́ць павя́зку, вяно́к. 5. абіва́ць, абшыва́ць берагі́. 6. пераплята́ць кні́гу. 7. Med. выкліка́ць запо́р
– v.i. 1. прыліпа́ць, трыма́цца ра́зам. 2. забавя́зваць, зьвя́зваць:***A contract always binds*** Кантра́кт забавя́звае
– n. 1. су́вязь *f.* 2. Mus. сынко́па *f.*
• ***bind oneself to*** згадзі́цца на не́шта, зьвяза́цца з *кім-чым*
**binder** [ˈbaɪndər] n. 1. перапле́тчык -а *m.*, перапле́тчыца *f.* 2. а) рэ́чыва, яко́е зьвя́звае, скле́йвае (*клей, цэмэ́нт*). б) снопавяза́лка *f.* (*машы́на*). 3. па́пка *f.*, ско́pасшыва́льнік -а *m.* 4. пі́саная ўмо́ва, грашо́вы закла́д
**bindery** [ˈbaɪndəri] n., pl. **-eries** перапле́тная майстэ́рня
**binding** [ˈbaɪndɪŋ] – n. 1. перапле́т -у *m.* 2. абшы́ўка, аблямо́ўка *f.*
– adj. 1. які́ зьвя́звае, злуча́е. 2. які́ забавя́звае
**bindweed** [ˈbaɪndwi:d] n., Bot. паві́туха *f.*
**bine** [baɪn] n. 1. сьцябслі́на паўзу́чае расьлі́ны. 2. уся́кі род паві́тухі ці паво́ю. 3. Bot. уся́кі род хме́лю
**binge** [bɪndʒ] – n. 1. п'я́нка, папо́йка *f.* 2. задавальне́ньне сваі́х жада́ньняў (*пае́сьці, папі́ць*)
– v.i. гульну́ць; до́бра пае́сьці
**bingo** [ˈbɪŋgoʊ] n. бі́нга, *indecl.* (*гульня́*)
**binoculars** [bɪˈnɑ:kjələrz] n., pl. біно́клі -я *m.*; двайны́ тэлеско́п *або* мікраско́п
**binomial** [ˌbaɪˈnoʊmɪəl] – n. 1. Math. двухчле́н, біно́м -а *m.* 2. падво́йны тэ́рмін
– adj. 1. які́ склада́ецца з двух тэ́рмінаў, падво́йны. 2. двухчле́нны, біно́мны
**binomial theorem** біно́м Нью́тана
**binominal** [ˌbaɪˈnɑ:mənəl] adj. двухназо́ўны
**biochemical** [ˌbaɪoʊˈkemɪkəl] adj. біяхімі́чны
**biochemist** [ˌbaɪoʊˈkemɪst] n. біяхі́мік -а *m. & f.*
**biochemistry** [ˌbaɪoʊˈkemɪstri] n. біяхі́мія *f.*
**biogenesis** [ˌbaɪoʊˈdʒenəsɪs] n. 1. біягенэ́зіс -у *m.* 2. гісто́рыя эвалю́цыі жывы́х аргані́змаў
**biographer** [ˌbaɪˈɑ:grəfər] n. біёграф -а *m.*, жыцьцяпі́сец -ца *m. & f.*
**biography** [ˌbaɪˈɑ:grəfi] n., pl. **-phies** жыцьцяпі́с -у *m.*, біягра́фія *f.*
**biological** [ˌbaɪəˈlɑ:dʒɪkəl] adj. біялягі́чны
**biological warfare** бактэрыялягі́чная вайна́
**biologist** [baɪˈɑ:lədʒɪst] n. біёляг -а *m. & f.*, прыродазна́вец -ўца *m. & f.*
**biology** [baɪˈɑ:lədʒi] n. біялёгія *f.*, прыро́дазна́ўства *n.*
**biolysis** [baɪˈɑ:ləsɪs] n. распа́д аргані́чнага рэ́чыва (*жыво́е істо́ты*); сьмерць *f.*
**biometrical** [ˌbaɪoʊˈmetrɪkəl] adj. біямэтры́чны
**biometrics** [ˌbaɪoʊˈmetrɪks] n. = **biometry**
**biometrist** [ˌbaɪoʊˈmetrɪst] n. біямэтры́ст -а *m.*
**biometry** [baɪˈɑ:metri], біямэ́трыя *f.*
**bionics** [baɪˈɑ:nɪks] n. біёніка *f.*
**biophysicist** [ˌbaɪoʊˈfɪzɪsɪst] n. біяфі́зык -а *m.*
**biophysics** [ˌbaɪoʊˈfɪzɪks] n. біяфі́зыка *f.*
**bioplasm** [ˌbaɪoʊˈplæzəm] n., Biol. біяпля́зма, пратапля́зма *f.*
**biopsy** [ˈbaɪɑ:psi] n. біяпсі́я *f.*
**biota** [baɪˈoʊtə] n. фа́ўна й флёра
**bipartisan** [ˌbaɪˈpɑ:rtəzən] adj. двухпарты́йны
**biped** [ˈbaɪped] – n. двухно́гая істо́та

– adj. двухно́гі
**bipedal** [baɪˈpi:dəl] adj. двухно́гі
**bipetalous** [ˌbaɪˈpetələs] adj. двухпялёсткавы
**biplane** [ˈbaɪpleɪn] n. біпля́н -а *m.*
**bipolar** [ˌbaɪˈpoulər] adj. 1. двухпо́люсны; на двух по́люсах. 2. супрацьле́жны, адваро́тны; супяр́эчны
**biquadrate** [ˌbaɪˈkwɑ:dreit] n., Math. чацьве́ртая ступе́нь, квадра́т квадра́та
**biquadratic** [ˌbaɪkwaˈdrætɪk] – adj.,Math. чацьве́ртае ступе́ні, біквадра́тны
– n. 1. чацьве́ртая ступе́нь лі́ку. 2. раўна́ньне чацьве́ртае ступе́ні, біквадра́тнае раўна́ньне
**birch** [bɜ:rtʃ] – n. бяр́эзіна, бяр́эзінка *f.*, *dim.*, бяро́за, бяро́зка *f.*
– adj. бяро́завы: ***birch rod*** ро́згаf., дубі́ец -ца́ *m.*; ***birch sap*** бяро́завік -у *m.*, бяро́завы сок
– v.t. лупі́ць, лупцава́ць ро́згаю
**birchbark** [ˈbɜ:rtʃbɑ:rk] n. бяро́ста *f.*
**birch grove** бяр́эзьнік -у *m.*
**bird** [bɜ:rd] – n. 1. пту́шка *f.*, птах -а *m.*: ***game birds*** дзі́кія пту́шкі (*на паля́ваньне*). 2. Sl. чалаве́к -а *m.*: ***He's an odd bird*** Ён — дзіўны́ чалаве́к; ***old bird*** стары́ прайдзісьве́т, страля́ная пту́шка
– v.i. 1. лаві́ць *або́* страля́ць пту́шак. 2. назіра́ць пту́шак
• ***A little bird told me*** Не́хта мне сказа́ў; Каза́лі мне
• ***bird in (the) hand*** пту́шка ў руц́э, не́шта р́эальнае
• ***eat like a bird*** е́сьці, як пту́шка (*ма́ла*)
• ***for the birds,*** Sl. бязва́ртасны, нява́жны
• ***get the bird*** быць вы́сьвістаным (*пра акто́ра*)
• ***give the bird to someone*** вы́сьвістаць *каго́*
• ***kill two birds with one stone*** забі́ць двух за́йцаў адны́м стр́элам
**birdbrain** [ˈbɜ:rdbreɪn] n., Sl. птушы́ны ро́зум, пуста́я галава́
**bird cage** кле́тка *f.* (*для пту́шкі*)
**bird call** 1. гук, сьпеў пту́шак. 2. ва́бік -а *m.* (*сьвісто́к для пры́нады пту́шак*)
**bird-cherry tree** чаро́мха *f.*
**bird feeder** карму́шка для пту́шак
**birdie** [ˈbɜ:di] n. 1. пту́шачка *f.* 2. валя́н -а *m.*, пту́шка *f.* (*у бадмінто́не*)
**birdling** [ˈbɜ:rdlɪŋ] n. птушаня́ *n.*
**birdman** [ˈbɜ:rdmən] n.,pl. **-men** 1. пту́шнік -а *m.*, птушкало́ў -ва *m.* 2. арніто́ляг -а *m. & f.* 3. таксыдэрмі́ст -а *m.*, чу́чальнік -а *m.* 4. Informal авія́тар -а *m.*
**birdnest** [ˈbɜ:rdnest] or **bird's-nest**, v.i. шука́ць гнёздаў, паля́ваць на гнёзды
**bird of paradise** ра́йская пту́шка
**bird of passage** 1. пералётная пту́шка. 2. Informal чалаве́к, які́ ча́ста мяня́е ме́сца по́быту
**bird of peace** го́луб -а *m.*, *pl.* галубы́
**bird of prey** драпе́жная пту́шка
**birdseed** [ˈbɜ:rdsi:d] n. корм для пту́шак
**bird's-eye** [ˈbɜ:rdzaɪ] – adj. з птушы́нага палёту:***a bird's-eye view*** від з вышыні́ птушы́нага палёту
– n. гату́нак паркалю
**birds of a feather** з аднаго́ гнязда́ пту́шкі, лю́дзі аднаго́ ро́ду
**birth** [bɜ:rθ] – n. 1. нараджэ́ньне *n.*, наро́дзіны *pl. only*; ро́ды *pl. only*: ***to give birth to*** нарадзі́ць; даць не́чаму пача́так. 2. пача́т|ак -ку *m.*; пахо́джаньне *n.*; род -у *m.*: ***the birth of a nation*** пача́ткі на́цыі: ***the land of our birth*** край, зь яко́га мы пахо́дзім, на́шая ба́цькаўшчына: ***a man of humble birth*** чалаве́к бе́днага ро́ду. 3. пры- ро́джаны та́лент: ***a poet by birth*** па́эт з прыро́джаным та́лентам. 4. зна́тны, сла́вуты род, зна́тнае пахо́джаньне: ***a man of birth*** чалаве́к зна́тнага пахо́джаньня, выда́тнага ро́ду
– v.t. нараджа́ць, радзі́ць
**birth control** 1. кантраля́ваньне нараджа́льнасьці. 2. супро́цьзача́ткавыя сро́дкі
**birthday** [ˈbɜ:rθdeɪ] n. дзень наро́дзінаў: ***birthday cake*** торт на дзень наро́дзі-

наў; ***birthday card*** віншава́льная ка́ртка на дзень наро́дзінаў
***• in a birthday suit*** го́лы, як ма́ма нарадзі́ла

**birthless** [ˈbɜːrθləs] adj. 1. ні́зкі; про́сты. 2. дарэ́мны; бескары́сны. 3. про́стага пахо́джаньня

**birthmark** [ˈbɜːrθmɑːrk] n. радзі́мы знак, радзі́мка *f.*

**birthplace** [ˈbɜːrθpleɪs] n. ме́сца нараджэ́ньня, ме́сца пахо́джаньня, радзі́ма *f.*

**birth rate** нараджа́льнасьць *f.*

**birthright** [ˈbɜːrθraɪt] n. 1. пра́ва першаро́дзтва. 2. пра́ва нараджэ́ньня ў да́дзенай краі́не

**biscuit** [ˈbɪskɪt] n., pl. **-cuits** or **-cuit** 1. малы́я бу́лачкі. 2. esp. Brit. суха́рык, біскві́т -а *m.* 3. сьветла-руды́ ко́лер; ко́лер зага́ру. 4. непаліва́ная парцаля́на

**bisect** [baɪˈsekt] v.t. 1. падзяля́ць, разраза́ць на дзьве ча́сткі. 2. разьдзяля́ць, разраза́ць напала́м, надво́е, распалаві́ньваць

**bisection** [ˌbaɪˈsekʃən] n. 1. дзяле́ньне напала́м, распалаві́неньне *n.* 2. ме́сца падзе́лу напала́м. 3. адна́ зь дзьвюх пало́ваў

**bisector** [ˌbaɪˈsektər] n. лі́нія падзе́лу

**bisexual** [ˌbaɪˈsekʃuəl] – adj. двухпо́лы
– n. 1. двухпо́лая жывёла ці расьлі́на. 2. гэрмафрады́т -а *m.*, гэрмафрады́тка *f.*

**bishop** [ˈbɪʃəp] – n. 1. бі́скуп -а *m.* (*у каталі́цкім касьцёле*); япі́скап -а *m.* (*у праваcла́ўнай царкве́*). 2. слон слана́ *m.* (*у ша́хматах*)
– v.t. прызнача́ць бі́скупам
– v.i. быць бі́скупам

**bishopric** [ˈbɪʃəprɪk] n. 1. сан, стано́вішча бі́скупа. 2. япа́рхія *f.*

**bisk** [bɪsk] n., *гл.* **bisque**

**bismuth** [ˈbɪzməθ] n., Chem. бісму́т -у *m.*

**bison** [ˈbaɪsən] n. бізо́н -а *m.*

**bisque** [bɪsk] n. 1. густы́ суп (*з ракападо́бных або́ дзічы́ны*). 2. суп-пюрэ́. 3. маро́зіва з арэ́хамі

**bissextile** [bɪˈsekstaɪl] – adj. пераступны́, высако́сны: ***February is the bissextile month*** Лю́ты — пераступны́ ме́сяц; ***February 29 is a bissextile day*** 29 лю́тага — пераступны́ дзень
– n. пераступны́ год, высако́сны год

**bister** *or* **bistre** [ˈbɪstər] n. 1. цёмна-руды́ пігмэ́нт. 2. цёмна-руды́ ко́лер

**bit I** [bɪt] n. 1. кава́лач|ак -ка *m.;* драбі́нка *f.* 2. Informal 12 1/2 цэ́нтаў: ***two bits*** 25 цэ́нтаў; ***six bits*** 75 цэ́нтаў; ***a bit*** кры́ху, крыху́
***• a bit of a bore*** нуднава́ты
***• bit by bit*** пакрысе́, пасту́пова
***• bits and pieces*** аста́ткі, рэ́шткі
***• do one's bit*** уне́сьці свой укла́д; дапамагчы́
***• every bit*** цалко́м, ца́лкам; зусі́м
***• not a bit*** ані кры́ху

**bit II** [bɪt] – n. 1. ке́лзы *pl. only*; цу́гля *f.*, *часьцей* цу́глі *pl. only.* 2. лязо́ нажа́, вастрыё сьвярдзёлка. 3. сьве́рд|зел -ла *m.*, ручны́ сьвярдзёл|ак -ка *m.* 4. цы́пель ключа́, во́стры вы́ступ у ключа́
– v.t. 1. цугля́ць, кілза́ць (*каня́*). 2. утаймо́ўваць, паўстры́мваць
***• take the bit in one's teeth*** а) ісьці́ напрало́м, дзе́йнічаць без агля́дкі, ні з чым ня лі́чачыся. б) (*пра каня́*) заку́сіць цу́глі, занату́рыцца

**bit III** [bɪt] v., p.t. and p.p. of **bite**

**bitch** [bɪtʃ] n. 1. су́ка, су́чка *f.*; ваўчы́ца, ліса́ *f.* 2. Sl. а) распу́сьніца *f.* б) зье́длівая зло́сная жанчы́на

**bite** [baɪt] – v.t., **bit, bitten** or **bit, biting** 1. куса́ць: ***She bit an apple*** Яна́ ўкусі́ла я́блык. 2. куса́ць (*пра саба́ку*), джгаць, джа́ліць (*пра пчалу́*): ***A mosquito bit me*** Мяне́ ўкусі́ў кама́р. 3. (*пра маро́з*) шчыпа́ць, маро́зіць. 4. кало́ць, прабіва́ць (*ша́бляй*). 5. разьяда́ць
– v.i. 1. бра́цца; лаві́цца: ***The fish are biting well*** Ры́ба до́бра бярэ́цца. 2. куса́цца, джгаць|ь(-ца) (*пра пчалу́*)
– n. 1. адку́шаны кава́лак; кава́лак на раз узя́ць у рот. 2. е́жа, пераку́ска

*f.*: ***Have a bite with me*** Перакусéце са мнóю. 3. укýс -у *m.*, рáна *f.* (*ад укýсу*): ***snake bite*** укýс вужáкі. 4. кусáньне, шчыпáньне *n.*: ***the bite of a cold wind*** шчыпáньне сьцюдзёнага вéтру. 5. éдкасьць *f.*, джáла *n.*: ***the bite of his sarcasm*** éдкасьць ягóнага саркáзму. 6. прыкýс -у *m.* (*зубóў*)

• ***bite back*** паўстрымáцца ад адкáзу, закусíць гýбы

• ***bite off*** адкусíць

• ***bite off more than one can chew*** узя́цца за непасíльную спрáву, пераацэ́ньваць сваé магчы́масьці

**biting** [ˈbaɪtɪŋ] adj. 1. вóстры; пранíзьлівы; пранíклівы: **a biting wind** вóстры, пранíзьлівы вéцер; **a biting cold** пранíзьлівая сьцю́жа. 2. Figur. зьéдлівы, саркасты́чны: **a biting remark** зьéдлівая заўвáга

**bitten** [ˈbɪtən] v., *p.p. of* **bite**

**bitter** [ˈbɪtər] – adj. 1. гóркі. 2. балю́чы; пóўны гóрычы: **a bitter loss** балю́чая стрáта; **bitter tears** гóркія сьлёзы; **a bitter cry** душаразьдзірáльны крык. 3. рэ́зкі, вóстры; пранíзьлівы, лю́ты: **bitter words** рэ́зкія слóвы; **a bitter wind** пранíзьлівы вéцер. 4. заўзя́ты; лю́ты, зацяты: **a bitter quarrel** заўзя́тая свáрка; **bitter enemy** зацяты вóраг

– n. 1. гóркае n.; гóрыч f. 2. гóркі лек (*напр. хінíн*). 3. гóркі смак. 4. esp. Brit. гóркае цёмнае пíва

– v.t. 1. рабíць гóркім. 2. Figur. атрýчваць (нéкаму жыцьцё)

**bitter end** сáмы канéц (*у цяжкóй абó непрыéмнай сытуáцыі*): ***to the bitter end*** а) да сáмага канцá. б) да сьмéрці

**bitterish** [ˈbɪtərɪʃ] adj. гаркавáты, гаркáвы

**bitterly** [ˈbɪtərli] adv. гóрка

**bittern I** [ˈbɪtərn] n. бугáй -я́ *m.* (*птýшка*)

**bittern II** [ˈbɪtərn] n. гóркая вáдкасьць пасьля́ крышталізáцыі марскóе вады́; мáтачны раствóр у салявáрні

**bitterness** [ˈbɪtərnəs] n. 1. гарчыня́, гаркатá, гóркасьць *f.*: ***bitterness of wormwood*** гóркасьць палыну́. 2. гóрыч *f.*

**bitumen** [bəˈtu:mən] n. бíтум -у *m.*

**bivalent** [ˌbaɪˈveɪlənt] adj. двухвáртасны, двухвалéнтны

**bivalve** [ˈbaɪvælv] – n. 1. двухствóрны малю́ск. 2. насéнны стручóк (*як гарóх*)

– adj. двухствóркавы

**bivouac** [ˈbɪvuæk] – n. бівáк -á *m.*

– v.i. стая́ць бівакóм

**biweekly** [baɪˈwi:kli] – adj. 1. двухтыднёвы. 2. выдавáны раз на два ты́дні

– n., pl. **-lies** двухтыднёвая газэ́та, двухтыднёвік -а *m.*

– adv. 1. двухтыднёва, раз на два ты́дні. 2. два разы́, двóйчы на ты́дзень

**biyearly** [baɪˈjɪrli] adj., adv. паўгадавы́, два разы́ на год

**bizarre** [bɪˈzɑ:r] adj. дзíўны; дзівáчны, вы́чварны; эксцэнтры́чны

**blab** [blæb] **-blabbed, -bbing** – v. выдавáць сакрэ́т, балбатáць, малóць языкóм

– n. 1. балбатня́ *f.*, пустаслóўе *n.* 2. балбатýн -á *m.*, балбатýха *f.*

**blabber** [ˈblæbər] *гл.* **blab**

**black** [blæk] – adj. 1. чóрны; вéльмі цёмны: ***to turn black*** чарнéць, счарнéць. 2. чорнаскýры, цёмнаскýры, нэгрыця́нскі. 3. брýдны, карэ́лы: ***black hands*** карэ́лыя рýкі. 4. апранýты ў чóрнае: ***black monks*** чóрныя манáхі, манáхі ў чóрным. 5. панýры, безнадзéйны: ***black despair*** чóрная рóспач

– n. 1. чóрны кóлер, чарнатá *f.*; чэрнь *f.* 2. чóрная вóпратка, жалóба *f.* 3. цёмнаскýр|ы -ага *m.*, цёмнаскýрая *f.*; нэгр -а *m.*, нэгрыця́нка *f.*

– v.t. 1. чарнíць, фарбавáць на чóрны кóлер. 2. ваксавáць (*чаравíкі*)

– v.i. 1. чарнéць

• ***black out*** а) часóва стрáціць зрок *абó* прытóмнасьць. б) пагасíць *абó* зацямнíць усё сьвятлó

• ***in the black*** Bookkeep. з прыбы́ткам

**black-and-blue** adj. пасіня́чаны, у сіня́ках; чорна-сíні

**black and white**, n. 1. пісьмó *n.*; друк -у *m.*: ***in black and white*** у пісьмóвай

фóрме, чóрным па бéламу. 2. малюнак, скеч у чóрных і бéлых кóлерах
**black beetle** чóрны прусáк, таракáн -а *m.*
**blackberry** [ˈblækˌberi] n., pl. **-ries** (*ягада або куст*) ажы́на *f.*
**blackbird** [ˈblækbɜ:rd] n. чóрны дрозд
**blackboard** [ˈblækbɔ:rd] n. шкóльная дóшка
**black book** чóрны сьпіс: ***to be in one's black book*** быць у чóрным сьпíсе; быць у нялáсцы
**black box** чóрная скры́нка (*у самалёце*)
**blackcap** [ˈblækkæp] n. 1. валасянка, чорнагалóўка *f.* (*птýшка*). 2. род чóрных малíнаў. 3. Brit. чóрная шáпачка, адзявáная судзьдзёю пры прысýдзе на сьмерць
**blackcock** [ˈblækkɑ:k] n. цяцéра *f.*, цецярýк -á *m.*
**black currant** чóрная парэ́чка
**Black Death** «чóрная сьмерць», чумá
**blacken** [ˈblækən] **-ened, -ening**, – v.t. 1. чарнíць, цямнíць, прыцямняць :***to be blackened with smoke*** закуры́цца, пачарнéць ад ды́му. 2. ачарняць (*нéчае імя*)
– v.i. чарнéць
**blackened** [ˈblækənd] adj. пачарнéлы
**black eye** 1. сіняк пад вóкам, падбíтае вóка. 2. Informal а) мóцны ўдáр. б) гáньба, зьнявáга *f.*
**black-eyed** [ˌblækˈaɪd] adj. 1. чарнавóкі. 2. з падбíтым вóкам
**black flag** пірáцкі сьцяг
**Black Friday** кры́зысны дзень на бíржы
**blackguard** [ˈblægɑ:rd] – n. нягóднік -а *m.*, падлюгІа -і *m. & f.*
– v.t. лáяцца непрыстóйнымі слóвамі
– v.i. трымáцца як нягóднік
**blackguardly** [ˈblægɑ:rdli] – adj. пóдлы, нягóдніцкі
– adv. пóдла; па-нягóдніцку
**blackhead** [ˈblækhed] n. 1. вугóр -а *m.* (*на скýры*). 2. птýшка з чóрнаю галавóю
**black humor** чóрны, магíльны гýмар
**blackish** [ˈblækɪʃ] adj. чарнявы; чарнавáты
**blacking** [ˈblækɪŋ] n. чóрная вáкса; чóрная палітýра
**blackjack** [ˈblækdʒæk] – n. 1. дубíнка *f.* 2. пірáцкі чóрны сьцяг. 3. ачкó *n.* (*азáртная гульня*)
– v.t. біць дубíнкай; вымушáць: ***to blackjack someone into submission*** вы́мусіць нéкага падпарáдкавацца
**black letter** 1. гóтык -у *m.* (*друк*). 2. друк таўсты́мі лíтарамі
**black list** чóрны сьпіс
**blacklist** [ˈblæklɪst] v.t. занóсіць у чóрны сьпіс
**black magic** чóрная мáгія
**blackmail** [ˈblækmeɪl] – n. 1. шантáж -ý *m.* 2. грóшы, вы́мушаныя шантажóм
– v.t. 1. шантажавáць. 2. вымагáць грóшы пагрóзамі
**blackmailer** [ˈblæmeɪlər] n. шантажы́ст -а *m.*, шантажы́стка *f.*; вымагáльнік -а *m.*, вымагáльніца *f.*
**black market** чóрны ры́нак
**black marketeer** спэкулянт -а *m.*, спэкулянтка *f.*
**blackness** [ˈblæknəs] n. 1. чóрнасьць *f.* 2. цéмра *f.*
**blackout** [ˈblækaʊt] n. 1. зацямнéньне (*у сýвязі з супрацьпавéтранай абарóнаю*). 2. часóвае асьляплéньне *або* абамлéньне. 3. часóвая стрáта пáмяці. 4. часóвая адсýтнасьць электры́чнага тóку, радыёпрыёму. 5. Theatr. пагашэ́ньне сьвятлá на сцэ́не. 6. засакрэ́чаньне інфармáцыі
**black pepper** чóрны пéрац
**black pudding** крывянка *f.*
**black sheep** 1. вы́радак (*у сям'í*) -а *m.*. 2. нягóднік -а *m.*
**Black Shirt** чóрнакашýльнік -а, фашы́ст-а *m.*
**blacksmith** [ˈblæksmɪθ] n. кавáлІь -я́ *m.*
**blacksmithing** [ˈblæksmɪθɪŋ] n. кавáльства *n.*, кавáльская спрáва
**black tie** 1. чóрная мýшка. 2. мужчы́нскі вечарóвы ўбóр

**blacktop** [ˈblæktɑ:p] – n. 1. асфа́льт -у *m.* 2. асфа́льтная даро́га
– v.t. асфальтава́ць
**black widow** ядаві́ты чо́рны паву́к
**bladder** [ˈblædər] n. 1. Anat. мачавы́ пу-хі́р. 2. пузы́р -а́ *m.*
**blade** [bleɪd] n. 1. лязо́ *n.* (*нажа́, мяча́*), палатно́ пілы́. 2. меч, мяча́ *m.* 3. тра-ві́нкlа, былі́нка *f.* 4. ліст (*расьлі́ны*). 5. ло́пасьць вясла́. 6. лапа́тка (*шы-ро́кая пляска́тая ко́стка*); лапа́тка прапэ́лера
**blah** [blɑ:] n., Sl. лухта́ , бяссэ́нсіца *f.*
• ***the blahs*** дрэ́нны, непрые́мны на-стро́й
**blain** [bleɪn] n. пухі́р -а́ *m.*, нары́lў -ва *m.*, прышч -а́ *m.*
**blame** [bleɪm] – v.t. 1. вінава́ціць: ***he is to blame*** ён вінава́ты. 2. га́ніць
– n. 1. віна́ *f.* 2. нага́на *f.*; вымо́ва *f.*
**blameless** [ˈbleɪmləs] adj. бяздако́рны, беззага́нны
**blameworthy** [ˈbleɪmˌwɜ:rðі] adj. ва́рты нага́ны
**blanch** [blæntʃ] – v.t. 1. бялі́ць, выбе́ль-ваць (*на со́нцы*). 2. рабі́ць блэ́дным, пазбаўля́ць ко́леру: ***Fear blanched her lips*** Ад стра́ху ў яе́ зьбялэ́лі ву́с-ны. 3. бляншава́ць гаро́дніну
– v.i. бялі́цца; бляднэ́ць; бля́кнуць
• ***blanch over,*** Brit. падава́ць у кары́с-ным сьвятле́; абяля́ць
**bland** [blænd] adj. 1. даліка́тны, лаго́д-ны: ***a bland speech*** даліка́тная прамо́-ва; ***a bland smile*** лаго́дная ўсьме́шка. 2. мяккі́, даліка́тны, прые́мны: ***a bland summer breeze*** даліка́тны ле́т-ні ве́трык. 3. бяз сма́ку (*пра е́жу*), без вастрыні́, на́ціску (*пра прамо́ву, ар-ты́кул*)
**blandish** [ˈblændɪʃ] v.t. 1. угаво́рваць; задо́брываць, уце́шваць: ***She blan-dished him*** Яна́ задо́брыла яго. 2. лі-сьлі́віць, падла́шчвацца
**blandishment** [ˈblændɪʃmənt] n. 1. пад-лі́званьне, падла́шчваньне *n.* 2. лёс-ткі *pl. only*, ухвале́ньні *pl.*
**blank** [blæŋk] – n. 1. пусто́е ме́сца. 2. блянк -у *m.*: ***application blank*** блянк для зая́вы. 3. пу́стка *f.* (*духо́ўная*): ***My mind is a complete blank*** Я нічо́-га ня памята́ю. 4. пусты́ лятарэ́йны біле́т. 5. праця́жнік (*замі́ж прапу́ш-чанага сло́ва*)
– adj. 1. пусты́; чы́сты, нясьпі́саны: ***sheets of blank paper*** лісты́ чы́стае папе́ры. 2. незапо́ўнены: ***a blank form*** незапо́ўнены блянк. 3. пусты́: ***a blank stare*** пусты́, утаро́плены по́зірк; ***a blank outlook for the future*** без надзе́і на бу́дучыню. 4. бязду́мны, тупы́: ***There was a blank look on his face*** У яго́ быў тупы́ вы́раз тва́ру. 5. по́ўны, абсалю́тны: ***blank silence*** по́ўная ці-шыня́; ***blank stupidity*** абсалю́тная дурно́та. 6. халасты́, сьляпы́: ***a blank cartridge*** халасты́ патро́н. 7. суцэ́ль-ны, глухі́: ***a blank wall*** глуха́я сьцяна́
– v.t. абыгра́ць «усуху́ю»
• ***draw a blank*** пацярпе́ць няўда́чу ў намага́ньні зрабі́ць *што*
• ***in blank*** надрукава́ны з про́пускамі, як блянк
**blank check** а) непадпі́саны адкры́ты чэк. б) по́ўная свабо́да дзе́яньня
**blanket** [ˈblæŋkɪt] – n. 1. ко́ўдра *f.*, плед -а *m.*: ***homewoven blanket*** дзяру́ж-ка, по́сьцілка *f.* 2. по́крыва *n.*: ***a blan-ket of snow*** сьне́жнае по́крыва
– v.t. 1. засьцíла́ць. 2. пакрыва́ць. 3. перашкаджа́ць, заглуша́ць, глушы́ць (*радыёперада́чу*)
– adj. агу́льны, по́ўны, усеабды́мны: ***a blanket guarantee*** агу́льная, по́ўная гара́нтыя
**blank verse** бе́лы верш
**blare** [bler] – v.i. трубі́ць
– v.t. го́ласна крычэ́ць, раўсьці́, раўці́
– n. 1. гу́кі трубы́, трубе́ньне *n.* 2. асьляпля́льны бляск
**blarney** [ˈblɑ:rni] – n. лісьлі́васьць *f.*
– v. лісьлі́ва ўгаво́рваць; пераба́льш-ваць
**blasé** [ˌblɑ:ˈzeɪ] adj. абыя́кавы, перасы́ча-ны, зьнеахво́чаны (*ад збы́тку*): ***blasé attitude*** абыя́кавае ста́ўленьне

**blaspheme** [ˌblæsˈfiːm] v. 1. зьняважáць (*Бóга*), блюзьнéрыць. 2. праклінáць, клясьці́; лáяць, зьняважáць

**blasphemer** [ˌblæsˈfiːmər] n. блюзьнéр -а *m.*, блюзьнéрка *f.*; богазьняважáльнік -а *m.*, богазьняважáльніца *f.*

**blasphemous** [ˈblæsfəməs] adj. блюзьнéрскі, богазьняважáльны

**blasphemy** [ˈblæsfəmi] n., pl. **-mies** блюзьнéрства *n.*, богазьняважáньне *n.*

**blast** [blæst] – n. 1. пары́lў, павélў -ву *m.*: ***the icy blasts of winter*** марóзныя зімóвыя павéвы. 2. а) трубéньне *n.* (*на гóрне*). б) гук трýбаў. 3. струмéнь павéтра пры плаўлéньні жалéза. 4. а) вы́бух -у *m.*; падры́lў -ву *m.* 5. зарáд для падры́ву
– v.t. 1. падрывáць (*дынамíтам*). 2. зьнішчáць; руйнавáць: ***A disease has blasted our grapes*** Хварóба паніўшчыла наш вінагрáд; ***to blast one's reputation (plans)*** зруйнавáць сваю́ рэпутáцыю (разбуры́ць пля́ны). 3. сыгнáліць (*у аўтамабíлі*)
– v.i. сóхнуць (*пра расьлíны*); рабíцца бескары́сным
• ***blast off*** узьлёт
• ***full blast*** пóўным хóдам

**blasted** [ˈblæstəd] adj. 1. пашкóджаны, зруйнавáны, зьнíшчаны: ***blasted by forest fires*** зьнíшчаны лясны́мі пажáрамі. 2. Sl. пракля́ты

**blast furnace** дóмна *f.*

**blasting** [ˈblæstɪŋ] n. падрывáньне *n.* (*скáлаў*)

**blastoderm** [ˈblæstədɜːrm] n., Biol. зарóдкавая абалóнка

**blast shelter** схóвішча ад вы́бухаў

**blat** [blæt] – v.i. бляя́ць (*як авéчка*)
– v.t. казáць нéшта недарэ́чы; прагавóрвацца

**blatancy** [ˈbleɪtənsi] n., pl. **-cies** крыклíвасьць, вульгáрнасьць *f.*: ***the blatancy of modern advertising*** крыклíвасьць сучáснае рэкля́мы

**blatant** [ˈbleɪtənt] adj. 1. крыклíвы; гарлапáнскі. 2. паказны́, напакáз, разьлíчаны на эфэ́кт: ***blatant prosperity*** багáцтва напакáз. 3. страшэ́нны, абурáльны: ***a blatant lie*** абурáльная манá

**blather** [ˈblæðər] – n. лухтá, балбатня́ *f.*
– v. плéсьці лухтý, балбатáць

**blatherskite** [ˈblæðərskaɪt] n.,Informal пустамéлія -і *m.* & *f.*

**blaze I** [bleɪz] – n. 1. пóлымя *n.*, агlóнь -ню́ *m.*: ***in a blaze*** у агні́. 2. бляск -у *m.*, рэ́зкае сьвятлó. 3. вы́бух -у *m.*: ***a blaze of temper*** вы́бух злóсьці
– v.i. 1. палáць, палымнéць; гарэ́ць. 2. сьвяцíцца (*ад агню́, сьвятлá*); зьзяць, блішчэ́ць, зіхацéць. 3. а) успалы́хваць, шугáць, загарáцца (*пóлымем*). б) выбухáць (*ад злóсьці, рáдасьці*)
– v.t. асьвятля́ць, кíдаць сьвятлó
• ***blaze away,*** Informal а) бесьперапы́нна страля́ць. б) натхнёна працавáць *абó* гавары́ць
• ***Go to blazes!*** Ідзí ў пéкла!
• ***the blazes,*** Sl. пякéльны агóнь, пéкла *n.*

**blaze II** [bleɪz] n. 1. знак -у *m.*, засéчка *f.* (*на дрэ́ве*). 2. бéлая пля́мка (*на лóбе жывёлы*)

**blaze III** [bleɪz] v.t. разгалашáць

**blazer** [ˈbleɪzər] n. спартóвы пінжáк

**blazing** [ˈbleɪzɪŋ] adj. 1. я́ркі, зы́ркі: ***blazing flame*** зы́ркае пóлымя; ***glance blazing with rage*** пóзірк, што гарэ́ў злосьцю. 2. зы́ркі, я́ркі, асьляплáльны, сьляпýчы: ***a blazing sun*** зы́ркае сóнца

**blazon** [ˈbleɪzən] – v.t. 1. апавяшчáць, абвяшчáць. 2. прыбірáць, упрыгóжваць: ***meadows blazoned with flowers*** лугí, упрыгóжаныя крáскамі . 3. апíсваць *абó* малявáць гэрб
– n. герб -у *m.*

**bleach** [bliːtʃ] – v.t. бялíць; выбéльваць
– v.i. 1. выбéльвацца. 2. бялéць, бля́кнуць, блéкнуць. 3. выгарáць; лíняць, выцьвітáць (*на сóнцы*)
– n. 1. хлёрка *f.* 2. бялéньне *n.*

**bleacher** [ˈbliːtʃər] n. 1. бялíльшчык -а *m.*, бялíльшчыца *f.* (*тканíнаў*). 2. срóдак для бялéньня

**bleachers** [ˈbliːtʃərz] n. pl. лáўкі (*на спартóвых пляцóўках*)

**bleak I** [bli:k] adj. 1. адкры́ты, незахі́нены ад ве́тру; го́лы, незаро́слы расьлі́намі: ***bleak, gray mountains*** го́лыя шэ́рыя го́ры. 2. сьцюдзёны: ***a bleak wind*** сьцюдзёны ве́цер. 3. Figur. хму́рны, змро́чны, безнадзе́йны, чо́рны: ***a bleak future*** змро́чная бу́дучыня

**bleak II** [bli:k] n., Zool. верхаво́дка *f.* (*ры́ба*)

**blear** [blɪr] – adj. затума́нены; му́тны, каламу́тны; няя́сны, невыра́зны

– v.t. затума́ньваць; каламу́ціць; рабі́ць невыра́зным

**bleary** [ˈblɪri] adj. **blearier, bleariest** 1. затума́нены, цьмя́ны: ***eyes bleary with weeping*** во́чы, затума́неныя ад пла́чу

**bleat** [bli:t] – n. 1. бляя́ньне *n.* (*аве́чкі, казы́*), мы́каньне *n.* (*цяля́ці*). 2. скуго́леньне, нарака́ньне *n.*

– v.i. 1. бляя́ць, мы́каць, мыча́ць. 2. нарака́ць, скуго́ліць

**bleb** [bleb] n. 1. пухі́р -а́ *m.* (*на це́ле*). 2. бу́рбалка *f.*

**blebby** [ˈblebi] adj. 1. пухі́рысты, пакры́ты пухіра́мі. 2. по́ўны бу́рбалак

**bleed** [bli:d] **bled, bled** – v.i. 1. крыва́віць, сьцяка́ць крывёю, праліва́ць кроў: ***He bled to death*** Ён сьцёк крывёю й памёр; ***He fought and bled for his country*** Ён змага́ўся й праліва́ў кроў за свой край. 2. сачы́цца, тра́ціць сок (*пра пашко́джанае дрэ́ва*). 3. Figur. крывёю аблiва́цца, шкадава́ць, перажыва́ць: ***Our hearts bleed for you*** На́шыя сэ́рцы за цябе́ крывёю аблiва́юцца. 4. Print. выхо́дзіць за палі́, не пакіда́ць палёў

– v.t. 1. пуска́ць кроў, браць кроў. 2. пуска́ць сок з дрэ́ваў. 3. Informal вымага́ць (*гро́шы*). 4. Print. друкава́ць да канцо́ў бачы́ны (*не пакіда́ючы палёў*). 5. паво́лі спуска́ць ваду́

– n. 1. тэкст ці ілюстра́цыя ў кні́зе, што дахо́дзіць да краёў бачы́ны. 2. Tech. кла́пан -а *m.*, вэ́нтыль -я *m.*

• ***bleed white*** абяскро́віць (*забра́ць усе́ гро́шы й сі́лы*), спусто́шыць

**bleeder** [ˈbli:dər] n. 1. гэмафі́лік -а *m.* 2. Tech. засьцерага́льны кла́пан -а *m.*, вэ́нтыль -я *m.* 3. Sl. паразі́т -а *m.*

**bleeding** [ˈbli:dɪŋ] n. 1. крывацёк -у *m.* 2. крывапуска́ньне *n.*

**bleeding heart** – n. Bot. дыцэ́нтра *f.*, разьбі́тае сэ́рца

– adj. мя́ккасардэ́чны: ***bleeding heart liberal*** мяккаце́лы лібэра́л

**blemish** [ˈblemɪʃ] – n. 1. знак, пля́ма (*на це́ле*). 2. недахо́п, недагля́д -у *m.*; хі́ба *f.* 3. пля́ма *f.* (*мара́льная*), га́ньба *f.*

– v.t. 1. пакрыва́ць шна́рамі, пакіда́ць зна́кі. 2. псава́ць, пля́міць, га́ньбіць (*рэпута́цыю*)

**blemishment** [ˈblemɪʃmənt] n. пашко́джаньне *n.*; скале́чаньне *n.*; пля́ма, хі́ба *f.*; недагля́д -у *m.*

**blench I** [blentʃ] – v.i. адступа́ць, адступа́цца

– v.t. уніка́ць

**blench II** [blentʃ] v.i. бяле́ць; блядне́ць: ***He blenched with terror*** Ён зьбяле́ў ад стра́ху

**blend** [blend] **blended** or poetic **blent** – v.t. 1. зьме́шваць. 2. спалуча́ць

– v.i. 1. зьме́швацца: ***Oil and water will not blend*** Але́й з вадо́ю ня зьме́шваюцца. 2. спалуча́цца, зьліва́цца, гарманізава́ць

– n. 1. спалучэ́ньне *n.* 2. мешані́на, су́месь *f.*

**blende** [blend] n. бле́нда *f.* (*цы́нкавая руда́*)

**blended whiskey** ме́шанае ві́скі

**blender** [blendər] n. мяша́лка *f.*

**bless** [bles] **blessed** or **blest,** v.t. 1. благаслаўля́ць, бласлаўля́ць; сьвяці́ць (*ваду́, е́жу*), высьве́чваць. 3. жада́ць дабра́, чу́цца ўдзя́чным: ***God bless him for his kindness*** Дай, Бо́жа, яму́ здаро́ўя за ягоную ве́тласьць. 4. рабі́ць шчасьлі́вым, ашчасьлі́ўліваць. 5. добраслаўля́ць, услаўля́ць, усхваля́ць: ***Bless the Lord, O my soul*** Блаславі́, душа́ мая́, Го́спада

• ***Bless!*** Хай Бог лю́біць!

• ***Bless me!*** (*выклі́чнік зьдзіўле́ньня*) О, Бо́жа!

• ***bless oneself*** хрысьціцца, жагнацца
• ***Bless you!*** На здароўе! (*пажаданьне таму, хто чыхнуў*)

**blessed** [blest or ˈblesɪd] adj. 1. сьвяты: ***the Blessed Trinity*** сьвятая Тройца. 2. благаслаўлены. 3. шчасьлівы, шчасны, блажэнны: ***Blessed are the pure in heart*** Шчасьлівыя чыстыя сэрцам. 4. радасны. 5. Informal праклятыя: ***I can't get this blessed car to start*** Не магу завесьці гэты праклятыя аўтамабіль

**blessing** [ˈblesɪŋ] n. 1. благаславенства *n.*; дабрадзейства *n.*, дар -у *m.*: ***the blessings of nature*** дары прыроды. 2. ухваленьне *n.*, санкцыя *f.*
• ***blessing in disguise*** шчасьце ў няшчасьці

**blew** [blu:] v., *p.t. of* **blow I** and **blow II**

**blight** [blaɪt] – n. 1. пошасьць, хвароба, шкоднік (*расьлінаў*). 2. Figur. расчараваньне *n.*, удар -у *m.* 3. занепаданьне *n.*, заняпад -у *m.*: ***urban blight*** гарадзкі заняпад
– v.t. 1. выклікаць хваробу расьлінаў; шкодзіць. 2. разьбіваць, руйнаваць (*надзею, пляны*)

**blind** [blaɪnd] – adj. 1. сьляпы. 2. ледзь бачны, схаваны: ***a blind curve on a highway*** ледзь бачны выгін аўтастрады. 3. ледзь значны, непрыкметны, сьляпы: ***blind path*** ледзь заўважная сьцежка. 4. засьлеплены: ***blind fury*** сьляпая злосьць. 5. сьляпы (*без вакон*): ***a blind wall*** сьляпая сьцяна
– v.t. 1. сьляпіць; асьляпляць: ***blinding light*** сьляпучае сьвятло. 2. зацямняць, зацьмяваць; закрываць; маскаваць. 3. засьляпляць, асьляпляць: ***affection blinds reason*** пачуцьцё асьляпляе розум
– n 1. штора, аканіца *f.;* заслонка *f.*: ***Venetian blind*** жалюзі *Indecl., n.* 2. Figur. выдуманая прычына, адгаворка *f.* 3. засада *f.* (*для паляўнічага*)
• ***be blind to*** недацэньваць, не заўважаць *чаго*
• ***blind street*** тупік -а *m.*

**blindage** [ˈblaɪndɪdʒ] n. бліндаж -а *m.*

**blind date** 1. наладжаная сустрэча незнаёмых мужчыны й жанчыны. 2. адна з асобаў, якія так сустракаюцца

**blinder** [blaɪndər] n. навочнік -а *m.* (*у палахлівага каня*)

**blindfold** [ˈblaɪndfoʊld] – v.t. 1. завязваць вочы. 2. Figur. зацямняць: ***Prejudice blindfolds the mind*** Прадузятасьць зацямняе розум
– adj. 1. з завязанымі вачыма. 2. Figur. неразважны, неразважлівы; неасьцярожны
– n. павязка *f.* (*на вочы*)

**blind gut** сьляпая кішка

**blindingly** [ˈblaɪndɪŋli] adv. асьляпляльна

**blindly** [ˈblaɪndli] adv. 1. сьлепа; неразумна, неразважна; наўздагад. 2. вобмацкам (*як сьляпы*)

**blindman's bluff** гульня ў «сьляпую бабу»

**blindman's holiday** шарая гадзіна, сутоньне *n.*

**blindness** [ˈblaɪndnəs] n. 1. сьлепата *f.* 2. асьляпленьне *n.*

**blind spot** 1. сьляпая пляма на сятчатцы вока. 2. слабое месца ў нечым разуменьні *або* ведах. 3. месца слабое бачнасьці (*пры язьдзе ў аўтамабілі*)

**blindworm** [ˈblaɪndwɜ:rm] n., Zool. верацёньніца *f.* (*род яшчаркі*)

**blink** [blɪŋk] – v.i. 1. моргаць, міргаць: ***We blink every few seconds*** Мы міргаем кожныя некалькі сэкундаў. 2. плюшчыць вочы, жмурыцца: ***to blink at the sudden light*** зажмурыцца ад нечаканага сьвятла. 3. мігаць, мігцець, мігцецца; міргаць (*пра лямпу*)
– v.t. 1. ігнараваць, заплюшчваць вочы на *што*: ***don't blink the fact that...*** не заплюшчвай вочы на той факт, што... 2. асьляпляць: ***The sun is blinking my eyes*** Сонца сьлепіць мне вочы
– n. 1. міргаьне, падміргваньне *n.* 2. вокамгненьне *n.*, кароткі бляск (*сьвятла*), кароткі позірк

• ***blink at*** заплю́шчваць во́чы на *што*
• ***blink one's eyes*** мірга́ць вачы́ма
• ***in a blink*** во́бміргам
• ***on the blink*** нясправу́ны, не працу́е
**blinker** [ˈblɪŋkər] n. 1. сыгна́л мірга́ньнем сьвятла́. 2. ко́нскі наво́чнік. 3. Sl. a) во́ка *n.*, сьлепакі́ *pl. only.* б) падбі́тае во́ка, сіня́к пад во́кам
**bliss** [blɪs] n. 1. вялі́кае шча́сьце, вялі́кая ра́дасьць. 2. раско́ша, асало́да *f.*; шча́сьце *n.*, шча́снасьць *f.*
**blissful** [ˈblɪsfəl] adj. ве́льмі шчасьлі́вы, шча́сны; ра́дасны: ***a blissful reunion*** ра́дасная сустрэ́ча; ***blissful memories*** ра́дасныя ўспамі́ны
**blissfully** [ˈblɪsfəli] adv. ра́дасна
**blissfulness** [ˈblɪsfəlnəs] n. шча́снасьць, ра́даснасьць *f.*
**blister** [ˈblɪstər] – n. 1. пухі́р -а́ *m.* (*на це́ле*). 2. пухіро́к, пухі́р на расьлі́не. 3. Med. выцяжны́ пля́стыр
– v.t. 1. выклікáць пухіры́ на це́ле. 2. Figur. напада́ць, атакава́ць во́стрымі сло́вамі
– v.i. пакрыва́цца пухіра́мі *або́* прышча́мі
**blister gas** атру́тны газ, які́ выклікáе пухіры́
**blithe** [blaɪð] adj. шчасьлі́вы, вясёлы
**blither** [ˈblɪðər] n. лухта́ *f.*; недарэ́чнасьць, дурні́на *f.*
**blithering** [ˈblɪðərɪŋ] adj. балбатлі́вы
**blitz** [blɪts] – n. 1. бліцкры́г -у *m.*, мала́нкавая вайна́. 2. нечака́ны гвалто́ўны напа́д (*самалётамі або́ та́нкамі*)
– v.t. рапто́ўна, гвалто́ўна напада́ць, атакава́ць або́ перамага́ць
**blizzard** [ˈblɪzərd] n. сьне́жная заве́я, мяце́ліца, завіру́ха *f.*
**bloat** [bloʊt] – v.t. 1. надзіма́ць. 2. салі́ць і вэ́ндзіць селядцы́
– v.i. надзіма́цца, пу́хнуць
– n. 1. уздуцьцё *n.* (*жывата́*). 2. Informal павелічэ́ньне шта́ту або́ выда́ткаў
**bloated** [ˈbloʊtəd] adj. 1. напу́хлы, азы́злы: ***bloated faces*** азы́злыя тва́ры. 2. ду́тыя; ве́льмі вялі́кія: ***bloated armaments*** празьме́рнае ўзбрае́ньне
• ***bloated herring*** вэ́нджаны, маласо́лены селядзе́ц
**bloater** [ˈbloʊtər] n. маласо́лены, вэ́нджаны селядзе́ц
**blob** [blɑːb] – n. 1. кро́пля *f.*: ***a blob of syrup*** кро́пля сыро́пу. 2. мале́нькі камя́к (*зямлі́, глі́ны*). 3. каляро́вая пля́мка або́ пы́рска (*фа́рбы*)
– v.t. пэ́цкаць, пля́міць; запы́рскваць, заплёхваць: ***to blob paint on the wall*** запы́рскаць сьцяну́ фа́рбай
**bloc** [blɑːk] n. блёк -у *m.*; аб'ядна́ньне *n.* (*дзяржа́ваў, палiты́чных па́ртыяў*)
**block** [blɑːk] – n. 1. a) кало́да *f.* (*дрэ́ва*), цу́рка *f.* (*мэта́лу*), глы́ба *f.* (*каме́нная*), блёк -у *m.* (*бэто́ну*); б) ку́бік -а *m.* (*дзе́цям для гульні́*). 2. перашко́да *f.*, зато́р -у *m.*: ***a traffic block*** зато́р у ру́ху. 3. кварта́л у го́радзе: ***one block east*** адзі́н кварта́л на ўсхо́д. 4. a) жыльлёвы ко́рпус. б) гандлёвыя рады́. 5. блёк -а *m.* (*біле́таў*). 6. пераго́н -у *m.* (*на чыгу́нцы*). 7. Sl. даўбе́шка *m. & f.*, до́ўбня *m.& f.* (*галава́*). 8. пла́ха *f.* (*для пакара́ньня сьме́рцю*). 9. Tech. блёк -у *m.*, лябёдка *f.* 10. Figur. перашко́да *f.*, ця́жкасьці: ***to have a mental block about spelling*** мець асаблі́выя ця́жкасьці ў выву-чэ́ньні пра́вапісу
– v.t. 1. блякава́ць, зачыня́ць; затры́мваць: ***to block the access*** зачыні́ць до́ступ; ***to block the progress*** затрыма́ць по́ступ. 2. перашкаджа́ць. 3. фармава́ць: ***Felt hats are blocked*** Фэтравы́я капялю́шы фарму́юць
• ***block in/out*** накі́нуць плян або́ чарнаві́к
• ***block off*** перакры́ць (*даро́гу*)
• ***blocked up*** зава́лены
• ***go to the block*** a) ісьці́ на пла́ху (*эшафо́т*). б) ісьці́ на про́даж (*асабл́іва праз ліцыта́цыю*)
• ***on the block*** a) на про́даж. б) на ліцыта́цыю
**blockade** [blɑːˈkeɪd] – n. 1. бляка́да *f.* 2. бляка́дны флёт *або́* а́рмія

– v.t. 1. накладáць блякáду. 2. выклікáць затóр (*на дарóзе*); заступáць (*дарóгу*); перашкаджáць

• ***raise the blockade*** зьняць блякáду

• ***run the blockade*** праскóчыць праз блякáду

**blockade runner** карабéль абó чалавéк, які́ прарываéцца праз блякáду

**blockbuster** [ˈblɑ:kˌbʌstər] n. 1. павéтраная бóмба вялі́кага калі́бру. 2. фі́льм, зрóблены вялі́кім кóштам. 3. Figur. нéшта вялі́кае, грандыёзнае

**block faulting** or **fault,** Geol. блёкавыя зрушэ́ньні, скід -у *m.*

**blockhead** [ˈblɑ:khed] n. дýр|ань -ня *m.*, дуры́л|а -ы *m. & f.*, ёлуп|ень -ня *m.*

**blockish** [ˈblɑ:kɪʃ] adj. дурны́; тупы́

**block letter** друкавáная вялі́кая лі́тара

**blog** [blɑ:g] v. вéсьці блог (*дзёньнік у Інтэрнэ́це*)

**blogger** [ˈblɑ:gər] n. блóгер -а *m.* (*чалавéк, які́ вядзé дзёньнік у Інтэрнэ́це*)

**blond** [blɑ:nd] – adj. 1. бяля́вы; сьвéтлавалóсы. 2. вéльмі сьвéтлага кóлеру: ***blond oak*** сьвéтлы дуб

– n. бляндзы́н -а *m.*

**blonde** [blɑ:nd] – n. бляндзы́нка *f.*

– v.t. фарбавáць валасы́ на сьвéтлы кóлер

**blood** [blʌd] n. 1. кроў, крыві́ *f.* 2. род -у *m.*, радня́ *f.*, сваяцтва, пахóджаньне *n.*: ***my own flesh and blood*** мая́ рóдная кроў і кóстка; ***It runs in his blood*** Гэ́та ў ягó ў крыві́. 3. забóйства, кровапралі́цьце *n.* 4. высóкае радаслóўе: ***a prince of the blood*** князь з каралéўскага рóду. 5. парóдзістасьць *f.*, дóбрая парóда; рáса *f.*: ***full blood*** конь чы́стае парóды, парóдзісты конь

• ***Blood is thicker than water*** Крóўная сýвязь мацнéйшая за сябрóўства

• ***in cold blood*** а) лю́та. б) сумы́сьля, знарóк; сьвéдама

• ***make one's blood boil*** раззлавáць нéкага

• ***make one's blood run cold*** мóцна напалóхаць нéкага

• ***make one's blood stir*** узбудзíць у нéкім гарáчае пачуцьцё ці захаплéньне

• ***shed blood*** лíць, пралівáць кроў

**blood** [blʌd] v.t. 1. прывучáць паляўні́чых сабáк да крыві́. 2. правóдзіць баявóе хрышчэ́ньне

**blood bank** банк крыві́

**blood brother** рóдны брат

**blood cancer** рак крыві́

**bloodcurdling** [ˈblʌdkɜ:rdlɪŋ] adj. жахлі́вы, ад якóга кроў сты́не ў жы́лах

**blooded** [ˈblʌdɪd] adj. дóбрай парóды, парóдзісты: ***blooded horses*** парóдзістыя кóні, кóні дóбрае парóды

• ***cold-blooded*** халóднакрóўны

• ***warm-blooded*** цеплакрóўны

**blood feud** варóжасьць памі́ж рóдамі (*з пралі́цьцём крыві́*)

**blood group** грýпа крыві́

**bloodhound** [ˈblʌdhaʊnd] n. 1. сабáкавывéднік. 2. Sl. шпік -á *m.*, агéнт вы́шуку, дэтэкты́|ў -ва *m.*

**bloodless** [ˈblʌdles] adj. 1. бяскрóўны; бляды́: ***a bloodless victory*** перамóга без пралі́цьця́ крыві́. 2. без энэ́ргіі, вя́лы, без жыцьця́. 3. бяздýшны, халóдны; нячýлы

**bloodletting** [ˈblʌdˌletɪŋ] n. 1. кровапускáньне *n.* 2. пралі́цьцё крыві́, кровапралі́цьцё *n.*, бóйня *f.*

**bloodline** радаслóўная

**blood poisoning** заражэ́ньне крыві́

**blood pressure** крывяны́ ціск, ціск крыві́

**blood pudding** or **sausage** крывянáя каўбасá, крывя́нка *f.*

**bloodshed** [ˈblʌdʃed] n. пралі́цьцё крыві́; бóйня *f.*

**bloodstained** [ˈblʌdsteɪnd] adj. 1. запля́млены крывёю. 2. вінавáты ў забóйстве *абó* пралі́цьці крыві́: ***a bloodstained conscience*** сумлéньне, запля́мленае крывёю

**bloodshot** [ˈblʌdʃɑ:t] adj. налі́ты крывёю (*пра вóчы*)

**bloodstock** [ˈblʌdstɑ:k] n. жывёла чы́стае парóды (*асаблі́ва пра кóней*)

**calculate** [ˈkælkjəleɪt] – v.t. вылічáць, падлічáць, калькулявáць
– v.i. спадзявáцца, разьлíчваць

**calculating** [ˈkælkjəleɪtɪŋ] adj. 1. лічы́льны, падлікóвы. 2. асьцярóжны, празóрлівы. 3. схíльны да інтры́гаў; эгаісты́чны, кары́сьлівы

**calculating machine** лічы́льная машы́на

**calculation** [ˌkælkjəˈleʃən] n. 1. лічэ́ньне, вылíчваньне *n.*, калькуля́цыя *f.* 2. вылічэ́ньні *pl.* 3. прадбáчлівае плянавáньне *n.*

**calculator** [ˈkælkjəleɪtər] n. 1. вылічáльнік -а *m.* (*асóба абó апарáт*). 2. калькуля́тар -а *m.*

**calculus** [ˈkælkjələs] n., pl. **-li** 1. кáмень (*у ны́рках*). 2. pl. **-luses,** Math. дыфэрэнцыя́льнае і інтэгрáльнае вылічэ́ньне

**caldron** or **cauldron** [ˈkɔːldrən] n. вялíкі казáн, кацёл

**Caledonian** [ˌkælɪˈdoʊniən] – adj., Poet. шкóцкі
– n. шкот -а *m.*

**calendar** [ˈkæləndər] – n.1. калляндáр -лендарá *m.* 2. пералíк спрáваў для разгля́ду ў судзé. 3. вучэ́бны плян *абó* прагрáма ўнівэрсытэ́цкага гóду
– v.t. упíсваць у каляндáр; каталягавáць у храналягíчным парáдку (*дакумэ́нты*) ***calendar month (year)*** каляндáрны мéсяц (год)

**calf I** [kæf] n., pl. **calves** [kævz] 1. цялё *n.* (*карóвы*). 2. малы́ кіт; фóкla -і *m.*; сланянё *n.* 3. цяля́чая скýра. 4. Informal цялё (*пра няўдáлага хлапцá ці дзецюкá*). 5. áйсбэрг -у *m.*, кры́га *f.*
• ***in/with calf*** цéльная карóва

**calf II** [kæf] n., pl. **calves** лы́тка *f.*

**calf love,** Informal дзіця́чае, падлéткавае кахáньне

**calfskin** [ˈkæfskɪn] n. цяля́чая скýра (*і вы́рабленая*)

**caliber** [ˈkæləbər] n. or **calibre** 1. калíблар -ру *m.* 2. я́касьці, здóльнасьці *pl.*: ***men of caliber*** здóльныя людзі

**calibrate** [ˈkæləbreɪt] v.t. 1. калібравáць. 2. вызначáць калíбар

**calico** [ˈkælɪkoʊ] – n., pl. **-coes** or **-coes** набівáны паркáль
– adj. 1. паркалёвы. 2. рабы́, пярэ́сты: ***a calico mare*** пярэ́стая кабы́ла

**caliph** [ˈkeɪlɪf] n. калíф -а *m.*

**caliphate** [ˈkælɪfeɪt] n. каліфáт -у *m.*

**calk I** [kɔːk] v.t. замáзваць (*расшчэ́піну, злучэ́ньне*)

**calk II** [kɔːk] – n. 1. гак, гáка *m.* (*на кóнскай падкóве*). 2. падкóўка *f.* (*на абýтку*)
– v.t. 1. падкавáць (*каня́*). 2. падбíць падкóўкі (*на абцáсе*)

**calk III** [kɔːk] v.t. калькавáць, здымáць кóпію

**call** [kɔːl] – v.t. 1. клíкаць, заклікáць, загáдваць: ***He called us to help him*** Ён паклíкаў нас, каб дапамаглí ямý; ***He called a cab*** Ён вы́клікаў таксí; ***to call to order*** заклікáць да парáдку. 2. а) склікáць, давáць сыгнáл. б) вáбіць, прынáджваць (*зьвярá*). 3. выклікáць: ***to call the roll of the class*** правярáць прысýтнасьць вýчняў. 4 . будзíць. 5. зваць, назывáць: ***They called him George*** а) Ягó назвáлі Юркам. б) Ягó звáлі Юркам; ***to be called*** звáцца, называ́цца; ***the so-called*** гэ́так звáны. 6. тэлефанавáць, званíць. 7. лічы́ць, уважáць: ***I call this a good house*** Я лічý, што гэ́та дóбры дом. 8. дамагáцца, жадáць: ***The bank called my loan*** Банк зажадáў пóўнае сплáты маёй пазы́кі. 9. абвяшчáць, прадкáзваць, прадбáчваць: ***The forecast calls for rain*** Прагнóз надвóр'я прадкáзвае дождж
– v.i. 1. гóласна гаварыць, крычáць; гукáць: ***He called from outside*** Ён гукнýў звóнку. 2. навéдваць: ***to call on a sick friend*** навéдаць хвóрага ся́бру
– n. 1. гукáньне *n.*, крык -у *m.* 2. гукавáя прынáда (*на зьвярá, птýшку*). 3. сыгнáл трубы́ (*у вóйску*). 4. зáклік, зварóт -у *m.*, клíканьне *n.*; за-

про́сіны *pl. only.* 5. дзелавы́ візы́т; наве́даньне хво́рага ле́карам. 6. каро́ткія адве́дкі. 7. тэлефо́нны звано́к: ***There is a call for you*** Цябе́ про́сяць да тэлефо́на

• ***be on/at call*** а) быць гато́вым на ко́жны вы́клік (зага́д). б) быць на дыжу́ры

• ***call back*** а) клі́каць наза́д, адклі́каць; адтэлефанава́ць *каму́*. б) узя́ць наза́д: ***to call back one's words*** узя́ць свае́ сло́вы наза́д

• ***call down*** зга́ніць, нага́ніць

• ***call in*** а) запрасі́ць, паклі́каць. б) патрабава́ць, дамага́цца вярта́ньня (*до́ўгу*). в) здыма́ць з ужы́тку: ***call in a book*** сканфіскава́ць кні́гу, зьняць з про́дажу

• ***call into being, existence*** паклі́каць да жыцьця́, ажыцьцяві́ць

• ***call off*** а) адклі́каць. б) забра́ць: ***Call off your dog*** Забярэ́це свайго́ саба́ку

• ***call on*** зайсьці́ся да *каго́*, адве́даць *каго́*

• ***call out*** а) кры́кнуць, гукну́ць. б) выкліка́ць во́йска (*на дапамо́гу цыві́льным ула́дам*)

• ***call up*** а) выкліка́ць успамі́ны, прыпо́мніць. б) патэлефанава́ць *каму́*, пазвані́ць *каму́*. в) прызыва́ць у во́йска

• ***within call*** блі́зка, паблі́зу

**caller** [ˈkɔ:lər] n. госьць, гасьця́ *m.*, го́сьця *f.*; наве́днік -а *m.*

**calligrapher** [kəˈlɪgrəfər] n. 1. чалаве́к з прыго́жым по́чыркам, калігра́ф -а *m.* 2. перапі́счык ру́капісаў

**calligraphic** [ˌkælɪˈgræfɪk] adj. калігра́фі́чны

**calligraphy** [kəˈlɪgrəfi] n. 1. по́чырк -у *m.*, прыго́жы по́чырк. 2. калігра́фія *f.*

**calling** [ˈkɔ:lɪŋ] n. 1. заня́т|ак -ку *m.*, прафэ́сія *f.* 2. закліка́ньне, клі́каньне *n.*, запро́сіны *pl.only*: ***the calling of the bells to prayer*** заклі́каньне звано́ў на малі́тву. 3. паклі́каньне *n.*

**callosity** [kəˈlɑ:səti] n., pl. **-ties** 1. зацьвярдзе́ньне на ску́ры; маз|о́ль -аля́ *m.* 2. бязду́шнасьць, таўстаску́расьць *f.*

**callous** [ˈkæləs] adj. 1. цьвярды́, зацьвярдзе́лы, мазалі́сты. 2. нячу́лы, бязду́шны, таўстаску́ры

**callow** [ˈkæloʊ] adj. 1. малады́ й недасьве́дчаны, неспрактыкава́ны, зялёны. 2. не зусі́м разьві́ты. 3. бясьпёры (*пра пту́шак*)

**call slip** блянк для замо́вы кні́гі ў бібліятэ́цы

**calm** [kɑ:m] – adj. 1. ці́хі, спако́йны; заці́шны: ***a calm evening*** ці́хі ве́чар; ***a calm sea*** спако́йнае мо́ра. 2. спако́йны, ураўнава́жаны

– n. 1. спако́|й -ю *m.*, ці́ша *f.*; заці́шша *n.* 2. супако́|й -ю *m.*, ціхамі́рнасьць *f.*

– v.t. 1. суніма́цца, суці́шваццa. 2. суці́шваццa: ***The sea calmed*** Мо́ра суці́шылася. 3. супако́йваццa, цішэ́ць, астыва́ць (*ад гне́ву*)

**calmly** [ˈkɑ:mli] adv. спако́йна, стры́мана, вы́трымана

**calmness** [ˈkɑ:mnəs] n. ці́ша, цішыня́ *f.*, спако́|й -ю *m.*

**caloric** [kəˈlɔ:rɪk] – n. цеплыня́ *f.*

– adj. цеплавы́, каляры́йны

**calorie** [ˈkæləri] or **calory** n., pl. **-ries** калёрыя *f.*

**calorific** [ˌkæləˈrɪfɪk] adj. цеплатво́рны

**calorimeter** [ˌkæləˈrɪmətər] n. калярымэ́т|ар -ра *m.*

**calumniate** [kəˈlʌmnieɪt] v.t. паклёпнічаць, ачарня́ць, чарні́ць; абылга́ць

**calumniation** [kəˌlʌmniˈeɪʃən] n. 1. паклёпнічаньне *n.*, зло́снае зьнеслаўле́ньне. 2. паклёп -у *m.*, зло́сны абгаво́р

**calumniator** [kəˈlʌmnieɪtər] n. паклёпнік -а *m.*, паклёпніца *f.*

**calumnious** [kəˈlʌmniəs] adj. паклёпніцкі

**calumny** [ˈkæləmni] n., pl. **-ies** паклёп -у *m.*, паклёпніцкія вы́думкі

**Calvary** [ˈkælvəri] n. Гальго́та *f.*

**calvary** [ˈkælvəri] n. 1. Гальго́та *f.* (*выя́ва расьпя́цьця*). 2. вялі́кія асабі́стыя цярпе́ньні *або́* ця́жкасьці

**calve** [kæv] – v.i. цялі́цца

– v.t. нарадзі́ць (*цялё*)

**calves I** [kævz] n. pl. цяля́ты

**calves II** [kævz] n. pl. лы́ткі

**calyx** [ˈkeɪlɪks] n., pl. **calyxes** or **-ces** 1. Bot. падвянóч|ак -ка *m.* (*квéткі*). 2. Anat., Zool. рэ́пка

**Cambodian** [kæmˈboʊdiən] – adj. камбаджы́йскі
– n. жыхáр Камбóджы

**cambric** [ˈkeɪmbrɪk] n. баты́ст -у *m.* (*тканíна*)

**camel** [ˈkæməl] n. вярблю́д -а *m.*

**camelback** [ˈkæməlbæk] n. горб вярблю́да

**cameleer** [ˌkæməˈlɪr] n. 1. паганя́ты вярблю́даў. 2. жаўнéр на вярблю́дзе

**camellia** n. [kəˈmi:liə] камэ́лія *f.* (*дрэ́ва й квéтка*)

**camel's hair** вярблю́джая шэрсьць *абó* падмéна яé (*напр. з вавёрчынага хвастá*)

**camelhair** [ˈkæməlher] adj. зрóблены зь вярблю́джае шэ́рсьці

**cameo** [ˈkæmioʊ] n., pl. **-eos** камэ́я *f.*

**camera** [ˈkæmərə] n., pl. **-eras** 1. фатаграфíчны апарáт. 2. pl. **-erae** кабінэ́т судзьдзí
• ***in camera*** а) у судзьдзёўскім прывáтным кабінэ́це. б) асабíста, прывáтна: ***to tell in camera*** сказáць прывáтна
• ***on camera*** ужывýю пéрад тэлекáмэрай

**cameraman** [ˈkæmrəmæn] n., pl. **-men** фотарэпартэ́р, кінаапэрáтар -а *m.*, тэлевíзійны апэрáтар

**camomile** [ˈkæməmaɪl] n. румя́н|ак -ку *m.*

**camouflage** [ˈkæməflɑ:ʒ] – n. 1. камуфля́ж -у *m.*, маскавáньне *n.*, маскірóўка *f.* 2. хітрасьць *f.*, хітрыкі для адвóду вачэ́й
– v.t. маскавáць
– v.i. маскавáцца

**camp** [kæmp] – n. 1. ля́гер -у *m.* 2. намёт, бýдка для часóвага жыцьця́. 3. жыцьцё ў намёце, шалашы́. 4. ля́гер -у *m.* (*грамáдзка-палíты́чны*)
– v.i стая́ць, разьмяшчáцца ля́герам
– v.t. разьмяшчáць у ля́геры
– adj. ля́герны
• ***be in the same camp*** быць у згóдзе, супрацóўнічаць
• ***break camp*** разьбірáць ля́гер
• ***camp out*** начавáць пад адкры́тым нéбам

**campaign** [kæmˈpeɪn] – n. 1. Milit. пахóд -у *m.*, áкцыя *f.* 2. кампáнія *f.*: ***a campaign to raise money*** кампáнія збóру грóшай; ***a campaign to elect someone*** агітацы́йная кампáнія, каб вы́браць *кагó*
– v.i. 1. брáць удзéл у пахóдзе. 2. агітавáць, правóдзіць кампáнію

**campaigner** [kæmˈpeɪnər] n. удзéльнік кампáніі *абó* пахóду

**camp bed** раскладны́ лóжак

**camp chair** раскладнóе крэ́сельца

**camphor** [ˈkæmfər] n. камфóра *f.*

**camphorated** [ˈkæmfəreɪtɪd] adj. прася́кнуты камфóрай: ***camphorated oil*** камфóрны алéй

**campus** [ˈkæmpəs] n. унівэрсытэ́цкі гарадóк

**can I** [ kæn] v., p.t. **could** 1. а) магчы́. б) быць у стáне. в) мець магчы́масьць. г) умець: ***I can speak French*** Я ўмéю гавары́ць па-францýску. 2. магчы́; мець прáва, дазвóл, ахвóту: ***You can go*** Вы мóжаце йсьці́; ***You can take the test again*** Вы мóжаце йзнóў здавáць экзáмэн

**can II** [kæn] n. 1. кансэ́рвавая бляшáнка *f.*: ***can of peas*** бляшáнка гарóху. 2. бітóн -у *m.*, бак: ***a milk can*** бітóн для малакá; ***a garbage can*** вядрó, бак, скры́нка для сьмяцьця́
– v.t. 1. укладáць у бляшáнкі, кансэрвавáць у бляшáнках *абó* слóіках: ***to can fruit*** рабíць кансэ́рвы з садавíны. 2. Sl. звóльніць з прáцы, вы́кінуць, вы́гнаць са шкóлы; пазбы́цца чагó-н. 3. Sl. спынíць: ***can the chatter*** спынíць пустýю гýтарку. 4. пасадзíць у турмý

**Canadian** [kəˈneɪdiən] – adj. канады́йскі, канáдзкі
– n. канады́|ец -йца, канáд|зец -ца *m.*

**Canadiana** [kəˌneɪdɪˈænə] n. канадыя́на *f.*

**Canadian English** ангéльская мóва канады́йцаў

**Canadian French** 1. канады́йцы францу́скага пахо́джаньня. 2. францу́ская мо́ва канады́йцаў

**canal** [kəˈnæl] – n. 1. кана́л -у *m.*: ***irrigation canal*** араша́льны кана́л, трубаправо́д -у *m.* 2. Anat. кана́л (*напр. стравава́льны, кішэ́чны*)
– v.t. капа́ць кана́л, право́дзіць кана́лы

**canalization** [ˌkænələˈzeɪʃən] n. 1. каналіза́цыя *f.* 2. сыстэ́ма кана́лаў; каналізацы́йная се́тка

**canalize** [ˈkænəlaɪz] v.t. право́дзіць кана́лы, каналізава́ць

**canary** [ kəˈneri] n., pl. **-naries** 1. канарэ́йка *f.* 2. я́рка-жо́ўты ко́лер

**cancan** n. [ˈkænkæn] канка́н -а *m.* (*та́нец*)

**cancel** [ˈkænsəl] v.t. **-cel(l)ed, -cel(l)ing** 1. адкладáць: ***to cancel a trip*** адклíкаць падаро́жжа. 2. рабíць няважным, касава́ць, анулява́ць. 3. а) вычы́ркваць, выкрэ́сьліваць. б) пагаша́ць: ***to cancel stamps*** пагаша́ць ма́ркі. 4. Math. скарача́ць. 5. Print выкіда́ць набра́нае

**cancellation** [ˌkænsəlˈeɪʃən] n. 1. адме́на *f.*, скасава́ньне *n.*, ануля́цыя *f.* 2. вычыркне́ньне, выкрасьле́ньне *n.* 3. пагашэ́ньне *n.* (*ма́рак*). 4. Math. скарача́ньне *n.*

**cancellous** [ˈkænsələs] adj., Anat. рашэ́цісты: ***cancellous bone*** рашэ́цістая косьць

**cancer** [ˈkænsər] n. 1. Med. рак -у *m.* 2. Figur. по́шасьць *f.*; зло *n.*, бяда́ *f.*

**Cancer** [ˈkænsər] n. 1. Тро́пік Ра́ка. 2. сузо́р'е Ра́ка

**cancerous** [ˈkænsərəs] adj. ра́кавы

**cancroid** [ˌkæŋˈkrɔɪd] – adj. 1. ракападо́бны: ***a cancroid tumor*** ракападо́бная пухлíна. 2. ракападо́бны
– n. род ра́ку ску́ры

**candid** [ˈkændɪd] adj. 1. а) шчы́ры, адкры́ты: ***a candid reply*** шчы́ры адка́з. 2. справядлíвы, бессаро́нньні, аб'екты́ўны

**candidacy** [ˈkændɪdəsi] n. кандыдату́ра *f.*

**candidate** [ˈkændɪdeɪt] n. кандыда́т -а *m.*, кандыда́тка *f.*: ***candidate for president*** кандыда́т на прэзыдэ́нта

**candidature** [ˈkændədətʃʊr] n., esp. Brit. кандыдату́ра *f.*

**candied** [ˈkændid] adj. 1. зацукрава́ны, у цу́кры: ***candied fruit*** садавíна ў цу́кры. 2. сало́дкі, саладжа́вы: ***candied words of praise*** сало́дкія сло́вы пахвалы́

**candle** [ˈkændəl] n. 1. сьве́чка *f.* 2. сьве́чка (*адзíнка вымярэ́ньня сíлы сьятла́*)

**candle-end** [ˈkændəlˌend] n. ага́рак -ка *m.*

**Candlemas (Day)** [ˈkændəlməs] n. грамнíцы *pl. only*

**candlestick** [ˈkændəlstɪk] n. падсьве́чнік -а *m.*

**candlewick** [ˈkændəlwɪk] n. кнот -а *m.* (*сьве́чкі*)

**candock** [ˈkændək] n., Bot. гарла́чык -а *m.*

**candor**, Brit. **candour** [ˈkændər] n. 1. шчы́расьць, адкры́тасьць, сумле́ннасьць *f.* 2. справядлíвасьць, бесстаро́ннасьць *f.* 3. бездако́рнасьць, беззага́ннасьць *f.* (*хара́ктару*), чысьцíня́ *f.*

**candy** [ˈkændi] – n., pl. **-ies** цуке́рка *f.*
– v.t. цукрава́ць

**cane** [keɪn] – n. 1. па́лка, па́лачка *f.*, трысьцíнка *f.*, кíй -я, кíёк -йка́ *m.* 2. прут -а́ *m.* 3. трысьнёг -ягу́ *m.*, трысьцё *n.*: ***sugar cane*** цукро́вы трысьнёг
– v.t. 1. бíць кíем. 2. пле́сьці з трысьнягу́

**canebrake** [ˈkeɪnbreɪk] n. трысьняго́вы гушча́р

**cane chair** пле́ценае крэ́сла з трысьнягу́

**cane field** по́ле цукро́вага трысьнягу́

**canine** [ˈkeɪnaɪn] – adj. 1. саба́чы. 2. драпе́жны
– n. 1. саба́ка -і *m.*; зьвер зь сям'í мясажэ́рных. 2. íкла -ла́ *m.* (*зуб*)

**canine tooth** íкла -ла́, клык -а́ *m.*

**canister** [ˈkænɪstər] n. 1. мала́я бляша́нка. 2. каро́бка працівага́зу

• ***canister shot*** карцéча *f.*

**canker** [ˈkæŋkər] – n. 1. я́зва *f.* 2. хваро́ба — рак пладо́вых дрэ́ваў. 3. зло *n.*; я́зва *f.* 4. Zool. ву́сень -я *m.*
– v.t., v.i. заражáць, заражáцца, быць зара́жаным; разьядáць, псавáцца; гні́ць

**cankerworm** [ˈkæŋkərwз:rm] n. ву́сень -я *m.*

**cannabis** [ˈkænəbɪs] n. 1. інды́йскія каноплі. 2. гашы́ш -у *m.*, марыхуáна *f.*

**canned** [kænd] adj. 1. кансэрвавáны. 2. Sl. запісáны на сту́жку: ***canned music*** му́зыка, запі́саная на сту́жку. 3. Informal п'яны́

**cannery** [ˈkænəri] n., pl. **-ies** кансэ́рвавы заво́д

**cannibal** [ˈkænɪbəl] – n. 1. людаéд, канібáл -а *m.* 2. зьвер-канібáл
– adj. людаéдзкі, канібáльскі

**cannibalism** [ˈkænɪbəˌlɪzəm] n. людаéдзтва *n.*, канібалі́зм у зьвяро́ў

**cannonade** [ˌkænəˈneɪd] – n. 1. кананáда *f.* 2. Informal слоўныя напáдкі, ля́яньне *n.*
– v. безупы́нна бі́ць з гармáтаў

**cannon** [ˈkænən] – n., pl. **-nons** or coll. **-non** 1. гармáта *f.* 2. галёначная косьць (*у каня́*)
– v.i. 1. бі́ць, страля́ць з гармáты. 2. сту́кацца, ударáцца

**cannon ball** снарáд -а *m.*

**cannon bone** галёначная косьць

**cannon fodder** 1. Figur. гармáтнае мя́са. 2. збо́жжа для памо́лу (*у млы́не*)

**cannot** [ˈkænɑ:t] v. = **can not**

**canny** [ˈkæni] adj. **-nier,-niest** 1. хі́тры, абярэ́жлівы. 2. ашчáдны, гаспадáрны: ***a canny housewife*** ашчáдная гаспады́ня. 3. развáжны, развáжлівы; кéмлівы: ***a canny lad*** кéмлівы хлапéц

**canoe** [kəˈnu:] – n. канóэ *n., Indecl.*, індыя́нскі чóвен
– v.i. веславáць, плысьці́ чаўнóм
– v.t. перавóзіць чаўнóм
• ***paddle one's own canoe,*** Informal самóму прабівáцца праз жыцьцё

**canon I** [ ˈkænən] n. 1. царкóўны закóн, канóн -у *m.* 2. прáвіла *n.*, стандáрт-у *m.*: ***the canons of good taste*** прáвілы до́брага гу́сту. 3. афіцы́йны сьпі́с кні́гаў Бі́бліі. 4. сьпі́с сьвяты́х. 5. Print канóн (*вялі́кі шрыфт — 48 пу́нктаў*)

**canon II** [ˈkænən] n. канóнік -а *m.*

**canonical** [kəˈnɑ:nɪkəl] adj. 1. канані́чны. 2. зацьвéрджаны, пры́нятый

**canonicals** царкóўнае адзéньне, ры́зы *pl.*

**canonicity** [ˌkænəˈnɪsəti] n. канані́чнасьць, артадаксáльнасьць *f.*

**canonization** [ˌkænənəˈzeɪʃən] n. канані́зáцыя *f.* (*у сьвяты́я*)

**canonize** [ˈkænənaɪz] v.t. 1. кананізавáць. 2. прызнавáць канані́чным. 3. зацьвярджáць, санкцыянавáць, рабі́ць правамо́цным

**can opener** адкрывáчка *f.* (*кансэ́рвавых бляшáнак*)

**canopy** [ˈkænəpi] – n., pl. **-pies** 1. балдахі́н -а *m.* (*над трóнам, лóжкам*). 2. навéс, пóлаг -у *m.*: ***under the canopy of the trees*** пад зáсеньню дрэ́ваў. 3. нéба *n.*, ку́пал нéба. 4. ку́пал парашу́та
– v.t. прыкрывáць балдахі́нам, навéсам

**cant I** [kænt] – n. 1. няшчы́рая гу́тарка, гіпакры́зія *f.*, крывадýшнасьць *f.* 2. зьбі́тыя, шаблённыя фрáзы (*палі́тычныя, рэлігі́йныя*). 3. a) своеасаблі́вая прафэсі́йная мóва (*напр. юры́стаў, мэ́дыкаў*). б) жаргóн
– adj.1. няшчы́ры, крывадýшны, пабóжны на пакáз. 2. жаргóнны

**cant II** [kænt] n. 1. нахілéньне, перахілéньне *n.* 2. раптóўны абó мóцны ўдáр (*які́ зьбівáе з ног*). 3. кóсая лі́нія *абó* плошчасхóн, схіл -у *m.*: ***up the cant of the rock face*** увéрх па схóне скалы́

**can't** [kænt] v. *скарóчанае* **can not**

**cantaloup(e)** [ˈkæntəlu:p] n. ды́ня *f.*

**cantankerous** [kænˈtæŋkərəs] adj. сварлі́вы

**canteen** [kæn'ti:n] n. 1. біклáга, пляшка f. 2. вайскóвая крáма. 3. жаўнéрскі клюб. 4. сталóўка f., буфэ́т -у m. (*у шкóле, на фáбрыцы*). 5. пахóдная скрыня з кухóнным пóсудам

**canter I** ['kæntər] – v.t., v.i. éхаць на кані, éхаць лёгкім галёпам *абó* трушкóм, трýхаць

– n. трушlóк -кá m., лёгкі галёп

**canter II** ['kæntər] n. жабрáк -á m., папрашáйкlа -і m.

**canton** ['kæntɑ:n] – n. кантóн -у m. (*у Швэйцáрыі*)

– v.t. 1. дзяліць на чáсткі. 2. расквартарóўваць вóйска

**cantonment** [kæn'tɑ:nmənt] n. 1. вайскóвыя кватэ́ры, казáрмы, стаянкі. 2. расквартаравáньне вóйска

**cantor** ['kæntər] n. 1. кáнтар -а m. 2. кáнтар, саліст у сынагóзе

**Canuck** [kə'nʌk] n., Sl. 1. канадыец -ца m. 2. канадыец францýскага пахóджаньня

**canvas** ['kænvəs] – n. 1. парусіна f.; брызэ́нт -у m. 2. вéтразlь -я m.; пáрус -а m. 3. палатнó n. (*для малявáньня*). 4. кáнва f. (*для вышывáньня*)

– v.t. накрывáць парусінаю

– adj. палатняны, парусінавы; брызэ́нтавы

**canvass** ['kænvəs] – v.t. 1. зьбірáць падпісчыкаў, ахвяры *абó* галасы, вэрбавáць прыхільнікаў. 2. даклáдна пераглядáць. 3. падлічваць галасы (*пры галасавáньні*)

– n. 1. вэрбавáньне прыхільнікаў; выбарчая кампáнія. 2. хаджэ́ньне ад хáты да хáты

**canvasser** ['kænvəsər] n. 1. асóба, якáя вэрбýе, апытвальнік -а m. 2. падлічáльнік галасóў

**cany** ['keıni] adj. трысьнягóвы, як трысьнёг

**canyon** ['kænjən] n. цясьніна f., каньён -а m.

**caoutchouc** ['kaʊtʃʊk] n. 1. каўчýк -у m. 2. гýма f.

**cap** [kæp] – n. 1. шáпка f.; шáпачка f.; кéпка f., чапlёц -цá, каўпáк -á m. (*кухáрскі*). 2. шáпка f. (*грыба*). 3. вéчка n., нáкрыўка f. (*для слóіка*), кóрlак -ка, каўпачlóк -ка m. (*ад бутэ́лькі*)

– v.t. 1. надзявáць шáпку. 2. клáсьці навéрх; закрывáць, закаркóўваць

• ***cap in hand*** з шáпкай у рукáх (*прыніжана*)

**capability** [ˌkeıpə'bıləti] n., pl.**-ties** 1. здóльнасьць f. 2. магчымасьць f.

**capable** ['keıpəbəl] adj. здóльны, здáтны, спрáўны, кампэтэ́нтны: ***a capable teacher*** здóльны настáўнік

• ***capable of*** здóльны, здáтны да *чагó*

**capacious** [kə'peıʃəs] adj. прастóрны, вялікі, ёмісты, умяшчáльны: ***a capacious hall*** прастóрная зала; ***a capacious bag*** умяшчáльная тóрбачка

**capacitate** [kə'pæsıteıt] v.t. 1. рабіць здóльным, адпавéдным да *чагó*. 2. рабіць правамóцным

**capacity** [kə'pæsəti] n., pl. **-ties** 1. а) умяшчáльнасьць, ёмістасьць f.: ***a capacity of 4 litres*** ёмістасьць 4 літры. б) здóльнасьць, магчымасьць f.: ***the capacity to withstand heat*** трывáласьць на гарачыню. 2. магýтнасьць, прадукцыйнасьць f. 3. здóльнасьці pl.: ***a mind of great capacity*** вялікі рóзум. 4. якасьць, рóля f.: ***to act in the capacity of a guardian*** дзéяць у якасьці апекунá

**cape I** [keıp] n. накідка f. (*шырóкая, без рукавóў*), пэлерына f.

**cape II** [keıp] n. мыс -у m.: ***Cape of Good Hope*** Мыс Дóбрае Надзéі

**caper I** ['keıpər] – v.i. гýльліва падскóкваць, выдурняцца

– n. 1. вясёлы падскóк. 2. Figur. штýка f.; выбрык -у m.

• ***cut a caper (capers)*** а) выраблять штýкі. б) дурасьліва, гýльліва скакáць. в) падстрóіць штýку

**caper II** ['keıpər] n. 1. кáпэр -а m. (*вадаплáў*). 2. капітáн вадаплáву

**capercaillie** [ˌkæpər'keıli] n. глушlэ́ц -цá m. (*птýшка*)

**capillarity** [ˌkæpı'lærəti] n. валóснасьць, капілярнасьць f.

**capillary** [ˈkæpəleri] – adj. 1. як валасóк, вéльмі тóнкі. 2. капілярны
– n. капіля́р -а *m.*, капіля́рная трýбка

**capital** [ˈkæpətəl] – n. 1. стaлíца *f.* 2. вялíкая лíтара. 3. капітáл -у *m.* 4. рэсýрсы *pl.*, рэсýрс -у *m.* 5. мáемасьць *f.*, багáцьце *n.* 6. капіталíсты *pl.* 7. капітэ́ль *f.*
– adj. 1. капітáльны: ***capital expansion plans*** пля́ны пабóльшаньня капітáлу. 2. вáжны, вядýчы. 3. галóўны, істóтны, капітáльны. 4. першарáдны, дасканáлы: ***capital speech*** першарáдная прамóва. 5. Law карáны сьмéрцю (*пра злачы́нства*): ***capital sentence*** сьмярóтны прысýд; ***capital punishment*** кáра сьмéрці, сьмярóтная кáра

**capitalism** [ˈkæpətəlˌɪzəm] n. капіталíзм -у *m.*

**capitalist** [ˈkæpətələst] – n. 1. капіталíст -а *m.* 2. багáты чалавéк. 3. прыхíльнік капіталíзму
– adj. капіталісты́чны

**capitalistic** [ˌkæpətəlˈɪstɪk] adj. капіталісты́чны: ***the capitalistic system*** капіталісты́чны лад

**capitalize** [ˈkæpətəlaɪz] – v.t. 1. пісáць *абó* друкавáць вялíкімі лíтарамі. 2. ператвары́ць у капітáл. 3. фінансавáць
– v.i. карыстáць, выкарыстóўваць

**capital letter** вялíкая лíтара

**capitally** [ˈkæpɪtəli] adv. 1. вéльмі дóбра, выдáтна. 2. на сьмерць: ***to punish capitally*** пакарáць сьмéрцю

**Capitol** [ˈkæpɪtəl] n. капітóлі -ю *m.* а) буды́нак Кангрэ́су ў Вашынгтóне; буды́нак штáтнай легісьлятýры. б) сьвяты́ня Юпітэра на Капіталíйскім узвы́шшы ў старажы́тным Ры́ме

**capitulate** [kəˈpɪtʃəleɪt] v.i. капітулявáць; здавáцца

**capitulation** [kəˌpɪtʃəˈleʃən] n. капітуля́цыя *f.*, умóвы капітуля́цыі

**caprice** [kəˈpriːs] n. 1. капры́с, капры́з -у *m.*, пры́хамаць *f.* 2. зьмéнлівасьць *f.* 3. капры́чыё, *n, indecl.* (*музы́чны твóр*)

**capricious** [kəˈprɪʃəs] adj. капры́сьлівы, зьмéнлівы

**capsizal** [ˈkæpsaɪzəl] n. парушэ́ньне *n.*, разлáд -у *m.*

**capsize** [ˈkæpsaɪz] v.t., v.i. перакýльваць, перакýльвацца; перакідáць, перакідáцца

**capsule** [ˈkæpsəl] – n. 1. Med. кáпсула *f.* 2. Bot. насéнная карóбачка. 3. Anat. абалóнка (*напр. рагавáя, сьлізíстая*)
– adj. сьцíслы, скарóчаны: ***a capsule history of Miensk*** сьцíслая гістóрыя Мéнску
– v.t. зьмяшчáць у кáпсулы

**capsular** [ˈkæpsələr] adj. 1. кáпсульны. 2. у фóрме кáпсулы

**captain** [ˈkæptən] – n. 1. капітáн -а *m.* (*караблю́*). 2. капітáн -а *m.* (*у вóйску*). 3. правады́р -á *m.*; палкавóдзец -ца *m.* 4. Sport капітáн -а *m.* (*дружы́ны, камáнды*)
– v.t. кіравáць, камáндаваць

**captaincy** [ ˈkæptənsi] n., pl. **-ies** ранг капітáна

**captainship** [ˈkæptənʃɪp] n. 1. ты́тул капітáна. 2. кіраўнíчыя здóльнасьці, палкавóдзкае майстэ́рства

**caption** [ˈkæpʃən] n. 1. а) загалóвак -ўку *m.* б) пóдпіс -у *m.* (*пад здымкам*). 2. (*у фíльме*) нáдпіс -у *m.*, субты́тр -ру *m.*

**captious** [ˈkæpʃəs] adj. 1. прычэ́пісты, прыдзíрлівы. 2. падстýпны

**captivate** [ˈkæptɪveɪt] v.t. паланíць; зачарóўваць, чаравáць; вáбіць, прывáбліваць; захапля́ць

**captivation** [ˌkæptɪˈveɪʃən] n. 1. зачаравáньне, паланéньне, захаплéньне. 2. чар -у *m.*, прывáбнасьць *f.*

**captive** [ˈkæptɪv] – n. 1. зьнявóлены -ага *m.*, вя́зень -ьня *m.*, палóньнік -а *m.*
– adj. 1. зьнявóлены, паланёны: ***a captive soldier*** палóнны -ага *m.* 2. зачаравáны (*кахáньнем*)

**captivity** [kæpˈtɪvəti] n., pl. **-ties** 1. палóн -у *m.* 2. паланéньне, зьнявóленьне *n.*

**captor** [ˈkæptər] n. захóпнік -а *m.*, той, хто палóніць *абó* трымáе ў палóне

**capture** [ˈkæptʃər] – v.t. захóпліваць (*сíлаю*), лавíць, брáць у палóн
– n. 1. захóп -у *m.* 2. захóпленае, трафэíй -ю *m.*, здабы́ча *f.*

**car** [kɑ:r] n. 1. аўтамабíл|ь -я *m.*, áўта *n.*, машы́на *f.* 2. ваганэ́тка, павóзка *f.* 3. вагóн -а *m.* (*цягнікá*), трамвáй -я *m.* 4. клéтка ліфта

**caracul** [ˈkærəkʌl] n. карáкул|ь -ю *m.*

**carafe** [kəˈræf] n. графíн -а *m.*

**caramel** [ˈkærəməl] n. карамэ́ль *f.*

**carapace** [ˈkærəpeɪs] n. пáнцыр -а *m.* (*чарапáхі, сьлімакá*)

**carat** [ˈkærət] n. карáт -а *m.*

**caravan** [ˈkærəvæn] n. 1. каравáн -у *m.* 2. кры́ты грузавíк, фургóн -а *m.* 3. Brit. дом-аўтапрычэ́п

**caraway** [ˈkærəweɪ] n. кмен, кмін -у *m.*

**carbide** [ˈkɑ:rbaɪd] n., Chem. 1. карбíд -у *m.* 2. карбíд кáльцыю

**carbine** [ˈkɑ:rbi:n] n. карабíн -а *m.*

**carbohydrate** [ˌkɑ:rboʊˈhaɪdreɪt] n. вуглявóд -у *m*

**carbolic** [kɑ:rˈbɑ:lɪk] adj. карбóлавы: ***carbolic acid*** карбóлавая кíслатá, карбóлка

**carbon** [ˈkɑ:rbən] n. 1. Chem. вуглярóд -у *m.* 2. Electr. вýгал|ь -ю *m.*, вýгальны электрóд

**carbonaceous** [ˌkɑ:rbəˈneɪʃəs] adj. 1. вуглярóдзісты, вуглярóдны: ***carbonaceous compound*** вуглярóднае злучэ́ньне. 2. вýгальны

**carbonate** [ˈkɑ:rbəneɪt] – n. карбанáт -у *m.*, вуглякíслая соль
– v.t. а) ператтварáць у карбанáт. б) карбанізавáць. в) насычáць вуглякíслымі гáзамі (*напíтак*)

**carbon black** сáжа *f.*

**carbon copy** 1. кóпія, зрóбленая праз капíрку. 2. кáлька, кóпія *f.*

**carbon dioxide** вуглекíслатá, вуглекíслы газ

**carboniferous** [ˌkɑ:rbəˈnɪfərəs] adj. 1. вуглянóсны (*пра скалý*). 2. вуглярóдны

**Carboniferous** [ˌkɑ:rbəˈnɪfərəs] n. 1. камéннавýгальны (*пэры́яд*). 2. камéннавýгальныя фармáцыі й паклáды

**carbonization** [ˌkɑ:rbənəˈzeɪʃən] n. 1. карбанізáцыя *f.* 2. каксавáньне *n.*

**carbonize** [ˈkɑ:rbənaɪz] v.t. 1. абвýгліваць, каксавáць. 2. пакрывáць *абó* спалучáць з вуглярóдам, карбанізавáць

**carbon monoxide** чáдны газ, чад -у *m.*

**carbon paper** капіравáльная папéра, капíрка

**carbuncle** [ˈkɑ:rbʌŋkəl] n. а) карбýнкул -а *m.* б) цёмна-чырвóны каштóўны кáмень

**carburator** [ˈkɑ:rbəretər] n. карбюрáтар -а *m.*

**carcass** or **carcase** [ˈkɑ:rkəs] n. 1. тýша *f.* 2. каркáс -а *m.*, касьця́к -á *m.* (*будóвы, вадаплáва*)

**card I** [kɑ:rd] – n. 1. кáртка *f.*: ***postal card*** паштóвая кáртка, паштóўка *f.*; ***Christmas card*** каля́дная паштóўка; ***birthday card*** віншавáльная паштóўка з днём нарóдзінаў. 2. кáрта для гульні́
– v.t. раздавáць кáрты, картавáць
• ***card up one's sleeve*** мець у запáсе, мець запасны́ кóзыр
• ***cards*** а) гульня́ ў кáрты. б) кáрты
• ***hold all the cards*** мець перавáгу, пóўны кантрóль над *чым*
• ***in the cards*** наканавáна; прадбáчана, магчы́ма
• ***put one's cards on the table*** выкладáць кáрты на стол, адкры́ць сваé кáрты: ***to show one's cards*** раскры́ць кáрты

**card II** [kɑ:rd] – n. драцянáя шчóтка для часáньня лёну, вóўны, часáлка *f.*
– v.t. часáць (*лён, вóўну*)

**cardboard** [ˈkɑ:rdbɔ:rd] – n. кардóн -у *m.*
– adj. кардóнны: ***a cardboard box*** кардóнка *f.*

**card catalogue** картатэ́ка, кáртачны каталёг

**carder** [ˈkɑ:rdər] n. 1. часáльнік -а *m.*, часáльніца *f.* 2. часáльная машы́на, воўначасáлка, ільначасáлка *f.*

**cardiac** [ˈkɑ:rdiæk] – adj. 1. сардэ́чны: ***cardiac artheries*** сардэ́чныя артэ́рыі;

***cardiac muscle*** сардэ́чны му́скул. 2. ве́рхнястра́ўнікавы
– n.1. сардэ́чнік -а *m.* (*хво́ры на сэ́рца*). 2. лек на сэ́рца. 3. стра́ўнікавы лек

**cardigan** [ˈkɑ:rdɪgən] n. свэ́т|ар -ра *m.*

**cardinal** [ˈkɑ:rdɪnəl] – adj. 1. гало́ўны, са́мы істо́тны, кардына́льны: ***the cardinal merit*** гало́ўная заслу́га. 2. я́рка-чырво́ны. 3. кардына́льскі
– n. 1. кардына́л -а *m.* (*царко́ўны*). 2. кардына́л -а *m.* (*пту́шка*). 3. я́рка-чырво́ны ко́лер. 4. Math. ко́лькасны лічэ́бнік

**cardinalate** [ˈkɑ:rdənəleɪt] n. 1. стано́вішча, сан кардына́ла, кардына́льства *n.* 2. кардына́льская кале́гія

**cardinally** [ˈkɑ:rdɪnəli] adv. гало́ўным, карэ́нным чы́нам; кардына́льна

**card index** картатэ́ка

**cardiology** [ˌkɑ:rdiˈɑ:lədʒi] n. кардыялё́гія *f.*

**care** [ker] – n. 1. турбо́та, руплі́васьць, ува́га *f.* 2. апе́ка *f.*; нагля́д -у *m.*: ***under a doctor's care*** пад ле́карскім нагля́дам; ***in her sister's care*** пад апе́кай свае́ сястры́. 3. згрызо́та, турбо́та *f.*, кло́пат -у, неспако́|й -ю *m.*: ***Few people are free from care*** Няшма́т людзе́й жыве́ бяз кло́пату. 4. дба́ньне, стара́ньне *n.*: ***care for a common good*** дба́ньне дзе́ля агу́льнага дабрабы́ту
– v.i. 1. турбава́цца, ціка́віцца: ***He cares about music*** Ён ціка́віцца му́зыкай. 2. дбаць: ***I don't care what they say*** Я ня дба́ю, што яны́ ка́жуць. 3. хаце́ць; жада́ць: ***Would you care to see him?*** Ці Вы хаце́лі-б яго́ ба́чыць?
• ***care for*** а) ру́піцца, дбаць пра *каго́-што*; забясьпе́чваць *каго́*. б) любі́ць: ***I don't care for it*** Я не люблю́ гэ́тага
• ***have a care*** будзь асьцяро́жны, ува́жлівы
• ***(in) care of (c/o)*** пад гэ́ткім а́драсам
• ***Take care!*** Будзь асьцяро́жны! Беражы́ся!
• ***take care of*** дбаць, ру́піцца пра *каго́*; утры́мваць *каго́*: ***to take care of children*** даглядá́ць дзяце́й, утры́мваць дзяце́й

**career** [kəˈrɪr] – n. 1. а) заня́т|ак -ку *m.*, прафэ́сія *f.* б) кар'е́ра *f.* 2. ху́ткасьць *f.*, по́ўны ход: ***They rode in full career*** Яны́ е́халі по́ўным хо́дам
– adj. прафэсі́йны: ***career personnel*** прафэсі́йны пэрсана́л, працаўнікі́: ***career woman*** жанчы́на, яка́я прафэсі́йна працу́е, ро́біць кар'е́ру

**carefree** [ˈkerfri:] adj. бестурбо́тны, шчасьлі́вы

**careful** [ˈkerfəl] adj. 1. ува́жны, ува́жлівы, асьцяро́жны: ***to be careful of sweets*** асьцераа́цца сало́дкага. 2. стара́нны, дакла́дны: ***careful examination of the question*** дакла́дны і ўва́жны разгля́д пыта́ньня. 3. руплі́вы, клапатлі́вы; ува́жлівы: ***Be careful of the horses!*** Асьцяро́жна абыхо́дзься з ко́ньмі!

**carefully** [ˈkerfəli] adv. 1. асьцяро́жна; ува́жна, дакла́дна. 2. руплі́ва

**careless** [ˈkerləs] adj. 1. нядба́лы, нядба́йны; неру́плівы: ***a careless person*** нядба́йла, нядба́йнік, нядба́йніца. 2. бестурбо́тны, абыя́кавы: ***careless of danger*** які́ ня дба́е, ня ду́мае пра небясьпе́ку

**carelessly** [ˈkerləsli] adv. 1. няўва́жна, неасьцяро́жна. 2. нядба́ла, нестара́нна, абы-я́к. 3. абыя́кава, ня ду́маючы

**carelessness** [ˈkerləsnəs] n. 1. нядба́льства, нядба́йства *n.* 2. нядба́йнасьць, нядба́ласьць, няўва́жнасьць *f.*

**caress** [kəˈres] – n. ла́ска *f.*, абды́мкі *pl. only*, пацалу́н|ак -ку *m.*
– v.t. гла́дзіць, ла́шчыць, пе́сьціць

**caret** [ˈkærɪt] n. знак уста́ўкі (^)

**caretaker** [ˈkerˌteɪkər] – n. 1. даглядчык -а *m.*, дагля́дчыца *f.* 2. вартаўні́к -а́ *m.*
– adj. тымчасо́вы: ***caretaker government*** тымчасо́вы ўра́д

**careworn** [ˈkerwɔ:rn] adj. зьнямо́жаны згрызо́тамі *або́* турбо́тамі

**carfare** [ˈkɑ:rfer] n. апла́та за язду́ (*трамва́ем, аўто́бусам*)

**cargo** [ˈkɑ:rgoʊ] n., pl. **-goes** or **-gos** груз -у *m.*, пакла́жа *f.* (*вадапла́ва, самалёта*); цяжа́р -у *m.*

**caribou** [ˈkærəbu:] n., pl. **-bous** or coll. **-bou** паля́рны але́нь

**caricature** [ˈkærɪkətʃʊr] – n. карыкату́ра *f.*
– v.t. прадстаўля́ць у карыкату́рным вы́глядзе

**caricaturist** [ˈkærɪkətʃʊrəst] n. карыкатуры́ст -а *m.*, карыкатуры́стка *f.*

**caries** [ˈkeri:z] n. псава́ньне, гніцьцё *n.* (*зубо́ў*), кастае́да *f.*, ка́рыес -у *m.*

**carious** [ˈkeriz] adj. ка́рыесны, карыёзны (*пра зуб*), які́ псуе́цца, гніе́

**carking** [ˈkɑ:rkɪŋ] adj. гнятлі́вы, турбо́тны

**carload** [ˈkɑ:rloʊd] n. ваго́н гру́зу

**Carmelite** [ˈkɑ:rməlaɪt] – n. 1. кармэлі́т -а *m.* (*мана́х*). 2. то́нкая ваўня́ная ткані́на
– adj. кармэлі́цкі

**carmine** [ˈkɑ:rmaɪn] – n. карм́ін -у *m.* (*ко́лер*)
– adj. карм́інавы, сьве́тла-барво́вы

**carnage** [ˈkɑ:rnɪdʒ] n. ма́савае забіва́ньне людзе́й, разьня́, бо́йня *f.*

**carnal** [ˈkɑ:rnəl] adj. 1. a) цяле́сны. б) палавы́, пачуцьцёвы, сэксуа́льны: ***carnal desire*** юр -у *m.*, пажа́длівасьць *f.* 2. сьве́цкі, зямны́, не духо́ўны

**carnality** [kɑ:rˈnæləti] n., pl. **-ties** 1. цяле́снасьць *f.* 2. сьве́цкасьць *f.* 3. юрлі́васьць, пачуцьцёвасьць *f.*

**carnation** [kɑ:rˈneɪʃən] – n. 1. гвазьдзі́к -а́ *m.* 2. ружо́вы ко́лер
– adj. ружо́вы

**carnival** [ˈkɑ:rnɪvəl] n. 1. ма́сьленіца *f.* 2. карнава́л -у *m.*

**carnivore** [ˈkɑ:rnəvɔ:r] n. 1. драпе́жны зьвер. 2. насяко́маедная расьлі́на

**carnivorous** [kɑ:rˈnɪvərəs] adj. 1. драпе́жны. 2. насяко́маедны

**carol** [ˈkærəl] – n. 1. ра́дасная пе́сьня. 2. сьвято́чны гімн: ***Christmas carols*** каля́дкі. 3. караго́д зь пе́сьнямі
– v.i. 1. сьпява́ць. 2. калядава́ць
– v.t. сла́віць каля́дкамі

**carol(l)er** [ˈkærələr] n. каля́днік -а, калядо́ўшчык -а *m.*

**carotid** [kəˈrɑ:tɪd] n. со́нная артэ́рыя

**carousal** [keˈraʊzəl] n. шу́мная гуля́нка, папо́йка *f.*

**carousel** [ˌkærəˈsel] n. карусэ́ль *f.*

**carp I** [kɑ:rp] v.i. крытыкава́ць, знахо́дзіць недахо́пы, чапля́цца

**carp II** [kɑ:rp] n., pl. **carps** or coll. **carp** карп -а *m.*

**carpal** [ˈkɑ:rpəl] – adj., Anat. кі́сьцевы: ***carpal bones*** кі́сьцевыя ко́сьці; ***carpal joint*** кі́сьцевы суста́ў
– n. кі́сьцевая косьць
• ***carpal tunnel syndrome*** запя́сьцевы тунэ́льны сындро́м (*напру́жаньне запя́сьця ад до́ўгай пра́цы на кампу́тары*)

**car park** аўтамабі́льная стая́нка

**carpel** [ˈkɑ:rpəl] n., Bot. пладалі́сьцік -а *m.*

**carpenter** [ˈkɑ:rpəntər] – n. 1. цясьля́р, цесьляра́ *m.*; це́сьл|я -і *m.* 2. сталя́р -а́ *m.*
– v.i. займа́цца цясьля́рствам, сталя́рствам, цясьля́рыць, сталя́рыць

**carpenter bee** ша́шаль

**carpentry** [ˈkɑ:rpəntri] n., pl. **-tries** цясьля́рства, сталя́рства *n.*; цясьля́рка, сталя́рка *f.*

**carpet** [ˈkɑ:rpət] – n. 1. дыва́н -а́ *m.*, кілі́м -а *m.* (*на сьцяну́*) 2. пакрыцьцё кве́так
– v.t. пакрыва́ць, засьціла́ць дывано́м
• ***call on the carpet*** выкліка́ць «на дыва́н»
• ***sweep under the carpet*** хава́ць, адклада́ць пад сукно́

**carpetbagger** [ˈkɑ:rpətˌbægər] n. 1. каміваяжо́р -а *m.* 2. палітычны аванту́рнік

**carpeting** [ˈkɑ:rpɪtɪŋ] n. 1. матэрыя́л на дываны́. 2. по́крыва *n.*: ***a carpeting of fresh snow*** по́крыва сьве́жага сьне́гу

**carpet rods** мэталёвыя пруткі́ для ўмацава́ньня дывана́ на схо́дах

**carping** [ˈkɑ:rpɪŋ] adj. празьме́рна крыты́чны, прычэ́пісты

**car port** паве́тка для а́ўтаў

**carpus** [ˈkɑːrpəs] n., pl. **-pi** запя́сьце *n.*; ко́сьці запя́сьця

**carriage** [ˈkærɪdʒ] n. 1. воз -а *m.*; бры́чка *f.*: ***carriage and four horses*** бры́чка, запрэ́жаная чатырма́ ко́ньмі. 2. карэ́тка *f.* (*друкава́льнай машы́нкі*). 3. а) перавоз -у *m.*, тра́нспарт -у *m.* б) ко́шты перавозу, перасы́лкі

**carrier** [ˈkæriər] n. 1. а) насі́льшчык -а *m.* б) пасланlе́ц -ца́, пасыльнlы́ -о́га, вясту́н вестуна́ *m.*: ***carrier of news*** вясту́н навінаў; ***letter carrier*** паштар -а́, лістано́шlа -ы *m.* 2. бацыланосьбіт -а *m.* 3. бага́жнік -а *m.* (*на самака́це*). 4. тра́нспартная кампа́нія. 5. адво́дны кана́л, кана́ва *f.* 6. авіяно́сьбіт -а *m.* 7. пашто́вы го́луб

**carrion** [ˈkæriən] – n. 1. па́дла *f., n.*, мярцьвя́чына *f.* 2. гніль *f.*; бруд -у *m.*
– adj. 1. мярцьвя́цкі. 2. які́ жы́віцца па́длаю. 3. гнілы́, бру́дны

**carrion crow** чо́рная варо́на

**carrot** [ˈkærət] n. мо́рква *f.*

**carrot weed** марко́ўнік -у *m.*

**carroty** [ˈkærəti] adj. 1. марко́ўнага ко́леру. 2. ры́жы

**carrousal** [ˌkærəˈsel] n., *такс.* **carousel** карусэ́ль *f.*, бага́жны круг (*на лётнішчы*)

**carry I** [ˈkæri] – v.t. **-ried, -rying** 1. насі́ць; не́сьці: ***He is carrying two books*** Ён нясе́ дзьве кні́жкі. 2. вазі́ць; ве́зьці: ***A ship carries cargo*** Вадапла́ў вязе́ груз. 3. а) захапля́ць: ***to carry the enemy's position*** захапі́ць варо́жую пазы́цыю. б) праве́сьці (*пастано́ву*). в) падпіра́ць, трыма́ць на сабе́ цяжа́р. г) мець зна́чаньне, уплы́ў: ***His judgment carries great weight*** Яго́ная ду́мка ма́е вялі́кую вагу́. 4. трыма́цца: ***to carry oneself with dignity*** трыма́цца з го́днасьцю. 5. зьмяшча́ць: ***to carry a review*** зьмясьці́ць агля́д. 6. гандлява́ць, прадава́ць, трыма́ць: ***to carry clothing for men*** гандлява́ць мужчы́нскай во́праткай
– v.i. 1. разыхо́дзіцца (*пра гук*), разно́сіцца, сяга́ць. 2. трыма́цца: ***This horse carries high*** Гэ́ты конь высо́ка трыма́е галаву́
• ***carry away*** а) адно́сіць (*пра хва́лю, ве́цер*). б) захапля́ць, натхня́ць: ***to be carried away*** захапля́цца, перайма́цца не́чым
• ***carry in (into)*** уно́сіць
• ***carry forward*** а) рабі́ць по́ступ, ісьці́ за не́чым напе́рад. б) перано́сіць на другу́ю бачы́ну ці ў другі́ слупо́к
• ***carry off*** вы́йграць, здабы́ць (*узнаго́роду*)
• ***carry on*** а) не затры́мвацца, праця́гвацlь (-цца): ***The conversation was carried on*** Гу́таркі йшлі́ дале́й. б) дале́й ве́сьці, кірава́ць (*спра́ву, заня́ткі*)
• ***carry out*** выко́нваць (*зага́ды, інстру́кцыі*), зрабі́ць, зако́нчыць, праве́сьці (*плян, до́сьлед*)
• ***carry over*** а) затрыма́ць, атрыма́ць зь мі́нулага. б) перано́сіць (*сло́ва*). в) праця́гваць, адклада́ць: ***to carry an account over to the next month*** адкла́сьці разраху́нак на насту́пны ме́сяц
• ***carry through*** а) вы́весьці, дапамагчы́ вы́йсьці (*зь ця́жкасьцяў*). б) даве́сьці да канца́, зако́нчыць, дасягну́ць

**carry II** [ˈkæri] n., pl. **-ries** 1. дальнабо́йнасьць *f.* (*збро́і*). 2. во́лак -у *m.* (*чаўна́*). 3. далёкасьць палёту (*снара́да, мяча́ ў го́льфе*)

**carsickness** [ˈkɑːrsɪknəs] n. мо́ташнасьць ад ру́ху (*у аўтамабі́лі, цягніку́*)

**cart** [kɑːrt] – n. 1. воз -а *m.*; калёсы *pl. only*, драбі́ны *pl. only.* 2. двуко́лка *f.* 3. ручны́ вазо́к
– v.t., v.i. вазі́ць, або́ е́хаць (*калёсамі*)
• ***put the cart before the horse*** пачына́ць ад канца́, рабі́ць шы́варат-навы́варат

**cartage** [ˈkɑːrtɪdʒ] n. 1. гужава́я перавозка, гужавы́ тра́нспарт. 2. ко́шты гужаво́е перавозкі

**cartel** [kɑːrˈtel] n. 1. картэ́лlь -ю *m.* 2. пі́саная ўмо́ва між ваю́ючымі дзяржа́вамі (*напр. пра абме́н пало́нных*). 3. пісьмо́вы вы́клік на дуэ́ль

**cartelize** [ˈkɑ:rtəlaɪz] – v.t. спалучáць у картэ́ль
– v.i. спалучáцца ў картэ́ль
**carter** [ˈkɑ:rtər] n. хурмáн, фурмáн -á *m.*
**cartilage** [ˈkartəlɪdʒ] n. храст|óк -кá *m.*
**cartilaginous** [ˌkɑ:rtəlˈædʒənəs] adj. 1. храсткóвы. 2. з храсткóвым шкілéтам: ***Many fishes are cartilaginous*** Шмат якія рыбы мáюць храсткóвы шкілéт
**cartload** [ˈkɑ:rtloud] n. пóўны воз; воз -у *m.* (*як мéра грýзу*)
**cartogram** [ˈkɑ:rtəgræm] n. картагрáма *f.*
**cartographer** [kɑ:rˈtɑ:grəfər] n. картóграф -а *m.*
**cartographic** [ˌkɑ:rtəˈgræfɪk] adj. картаграфíчны
**cartography** [kɑ:rˈtɑ:grəfi] n. картагрáфія *f.*
**carton** [ˈkɑ:rtən] n. 1. кардóн -у *m.* 2. кардóнка *f.* (*кардóнная скрынка*)
**cartoon** [kɑ:rˈtu:n] – n. 1. камíчны малюнак, карыкатýра *f.* 2. кóмікс -у *m.*: ***animated cartoon*** мультыплікацыйны фíльм. 3. кардóн -у *m.* (*нáкід карцíны, узóр фрэ́скаў*)
– v.t. 1. малявáць карыкатýры. 2. рабіць кардóны
**cartoonist** [kɑ:rˈtu:nɪst] n. 1. малявáльнік (*фíльму, кардóнаў*). 2. карыкатурыст -а *m.*
**cartridge** [ˈkɑ:rtrɪdʒ] n. 1. а) патрóн -а *m.* б) зарáд -а *m.*: ***blank cartridge*** халасты патрóн. 2. ***cartridge paper*** таўстáя шóрсткая папéра (*для малявáньня*). 3. Phot. шпýлька з фатаграфíчнай стýжкай. 4. чарнíльны запáс (*для аўтаматычнае рýчкі*)
**cartway** [ˈkɑ:rtweɪ] n. вýзкая дарóга
**carve** [kɑ:rv] v.t. 1. рэ́заць (*мя́са*). 2. а) выразáць (*з дрэ́ва, кóсьці*). б) высякáць; цясáць (*стáтую*). в) разьбя́рыць, гравіравáць
**carved** [kɑ:rvd] adj. 1. парэ́заны. 2. выразьблёны, разьблёны, высечаны. 3. гравіравáны
**carver** [ˈkɑ:rvər] n. 1. разьбя́р -á *m.*; рэ́зчык -а *m.* 2. нож для рэ́заньня мя́са
**carving** [ˈkɑ:rvɪŋ] n. разьбá *f.* (*дзéяньне і твор*); рэ́заньне *n.*
• ***carving knife*** нож на мя́са
**caryatid** [ˌkæriˈætəd] n., pl. **-ids, -ides** карыятыда *f.* (*калёна ў фóрме жанóчае стáтуі*)
**cascade** [kæˈskeɪd] – n. малы вадаспáд; каскáд -у *m.*
– v.i. пáдаць, спадáць каскáдам
**case I** [keɪs] n. 1. выпад|ак -ку *m.*; прыклад -у *m.*; абстáвіны *pl.*, стан -у *m.*; спрáва *f.*: ***a case for the police*** спрáва для палíцыі. 2. Med. а) выпадак хварóбы, захвóрваньне *n.*: ***case of measles*** выпáдак вóдры. б) хвóр|ы -ага, пацыéнт -а, парáнен|ы -ага *m.* 3. Law судóвая спрáва; прэцэдэ́нт -у *m.*, дóвады *pl.*: ***to state one's case*** прадстáвіць спрáву. 4. Gram. склон -у *m.* (*назóўніка, займéньніка, прымéтніка*)
• ***in any case*** ува ўсякім выпадку
• ***in case*** на выпáдак, у выпадку; калí б
• ***in no case*** ні ў якім выпадку
• ***just in case*** на ўсякі выпадак
**case II** [ keɪs] – n. 1. а) футарáл -а *m.*; нóжны *pl. only* (*для шáблі*), чахол -лá *m.*, пóкрыўка *f.*: ***a typewriter case*** футарáл для машынкі; ***a cigarette case*** партсігáр -а *m.* б) Anat. абалóнка *f.* 2. скрыня, скрынка *f.*; вялíкі кош. 3. рáма *f.* (*акóнная, дзьвярнáя*). 4. Print набóрная кáса: ***upper case*** вялíкія літары; ***lower case*** малыя літары. 5. вітрына *f.* 6. цьвярдáя вóкладка
– v.t. уклáсьці ў футарáл, нóжны
**caseharden** [ˈkeɪsˌhɑ:rdən] v.t. 1. Tech. гартавáць павéрхню стáлі. 2. Figur. зьнячýльваць
**casein** [ˈkeɪsiɪn] n. казэін -у *m.*, бял|óк -кý *m.*
**caseous** [ˈkeɪsiəs] adj. сырны, тварóжны, тварóжысты (*пра асáдак*)
**casern(e)** n. [kəˈzɜ:rn] казáрма *f.*, барáкі *pl.*
**cash** [ kæʃ] – n. гатóўка *f.*; наяўныя грóшы; манэ́ты й банкнóты: ***to be out of cash*** ня мець гатóўкі, грóшай

– v.t. 1. вымéньваць (*чэк на грóшы*). 2. плаціць наяўнымі грашыма

**cashable** [ˈkæʃəbəl] adj. грошаабмéнны

**cash-and-carry** [ˌkæʃənˈkæri] adj. прóдаж за гатóўку без дастáўкі

**cashew** [ˈkæʃu:] n. 1. каш'ю (*трапічны арэх*). 2. Bot. анакáрдыя захóдняя

**cashier** [kæˈʃɪr] n. касір -а *m.*

**cashmere** [ˈkæʒmɪr] n. 1. кашмір -у *m.* 2. кашмірóвы шаль. 3. мяккóе сукнó

**cash on delivery** аплáта пры дастáўцы, накладны плацёж

**cash register** кáсавы апарáт

**casing** [ˈkeɪsɪŋ] n. 1. а) абалóнка, апрáва, кáмера *f.* (*шыны*). 2. рáма *f.* (*напр. акóнная*). 3. кішкі для каўбáсаў, скýрка ад каўбасы

**cask** [kæsk] n. малáя бóчка, бóчачка *f.*

**casket** [ˈkæskət] n. 1. шкатýлка *f.* 2. трунá *f.*

**casking** [ˈkæskɪŋ] n. 1. налівáньне вінá ў бóчкі. 2. вінó ў бóчках

**casque** [kæsk] n. шлем -а *m.*, шышáк -á *m.*

**cassation** [kæˈseɪʃən] n. скасавáньне, анулявáньне *n.*, касáцыя *f.*

**cassia** [ˈkæʃə] n., Bot. 1. кáсія *f.* 2. карá кáсіі

**cassock** [ˈkæsək] n. сутáна *f.*

**cast** [kæst] – v.t. **cast, -ing** 1. кідаць, а) шпурляць: ***to cast a stone*** шпурнýць кáмень; ***to cast lots*** кідаць жэ́рабя; ***to cast a vote*** аддáць гóлас, галасавáць. б) ***to cast a glance*** кінуць пóзірк, кінуць вóкам; ***to cast a fishline*** закінуць вýду; ***to cast a shadow*** кідаць цень. 2. скідáць: ***to cast feathers*** скідáць пéр'е; ***to cast horns*** мянять рóгі; ***to cast skin*** скідáць скýру: ***A snake casts its skin*** Вужáка скідáе скýру; ***to cast hair*** ліняць (*пра жывёлу*). 3. складáць, падлічáць. 4. разьдзяляць рóлі, вызначáць актóраў для рóляў. 5. Tech. адлівáць (*з мэтáлу*): ***to cast a statue in bronze*** адліць стáтую з брóнзы

– n. 1. кіданьне *n.*; кідóк (*мячá*), далёкасьць кідкá. 2. закідáньне (*вýды, сéці*). 3. актóрскі склад (*у п'éсе, фільме*): ***The cast is complete*** Разьмеркавáньне рóляў закóнчанае. 4. а) адлíўка *f.*, ліцьцё *n.* (*дзéйнасьць і вырaб*). б) ліцéйная фóрма. 5. хірургічная павязка: ***plaster cast*** гіпсавая павязка. 6. адцéньне *n.*: ***with a pink cast*** з ружóвым адцéньнем

• ***cast around*** разглядáцца, шукáць, вынюхваць сьлед (*пра сабáкаў*)

• ***cast aside*** а) адклáсьці. б) адкінуць, выкінуць

• ***cast away*** а) пакінуць, закінуць: ***to cast away a project*** а) пакінуць, адкінуць плян. б) пацярпéць крушэ́ньне (*пра вадаплáў*)

• ***cast down*** а) апускáць (*вóчы*). б) засмуціць, абезнадзéіць

• ***cast off*** а) адвязáць, вызваліць. б) закóнчыць апóшні радóк у вязáньні, зьняць з пруткá

• ***cast on*** набірáць пéршы радóк у вязáньні пруткáмі

• ***cast one's ballot*** галасавáць

• ***cast out*** а) выганяць (*з краіны*), высяляць. б) выкідáць (*з краю, з тавáрыства*)

• ***cast up*** складáць; дадавáць

**castanet** n. [ˌkæstəˈnet] кастанэ́т -а *m.*

**castaway** [ˈkæstəˌweɪ] n. 1. чалавéк, які пацярпéў крушэ́ньне (*вадаплáва*). 2. Figur. вырадlак -ка *m.*; адрынуты, адкінуты (*з грамады*)

**caste** [kæst] n. 1. кáста *f.* (*сацыяльная кляса*). 2. кáставасьць *f.*: ***to lose caste*** стрáціць сацыяльны ранг *абó* станóвішча

**caster** or **castor** [ˈkæstər] n. 1. кóлца, рóлік (*на нóжках мэ́блі*). 2. сальніца, пéрачніца *f.*

**castigate** [ˈkæstɪgeɪt] v.t. 1. сурóва крытыкавáць, прабірáць. 2. карáць, дысцыплінавáць

**castigation** [ˌkæstɪˈgeɪʃən] n. 1. сурóвая крытыка; дакарáньне *n.* 2. пакарáньне (*асабл. цялéснае*), біцьцё *n.*, лупцóўка *f.*

**Castilian** [kæˈstɪliən] – adj. кастыльскі

– n. 1. гішпа́нская мо́ва. б) касты́льскі дыяле́кт. 2. касты́л|ец -ьца *m.*, кастылі́йка *f.*

**casting** [ˈkæstɪŋ] n. 1. вылява́ньне *n.* (*напр. з бро́нзы*). 2. адлі́ўка *f.*, адлі́ты прадме́т. 3. разда́ча ро́ляў. 4. закіда́ньне ву́ды з прына́дай

***• casting vote or voice*** го́лас старшыні́, што дае́ перава́гу

**cast iron** чыгу́н -у́ *m.*

**cast-iron** [ˌkæstˈaɪrn] adj. 1. чыгу́нны: ***cast-iron pot*** чыгу́н, сага́н. 2. Figur. цьвярды́, нягну́ткі, непада́тлівы: ***a cast-iron policy*** нягну́ткая палі́тыка. 3. Figur. мо́цны, ду́жы: ***a cast-iron constitution*** мо́цная будо́ва (*це́ла*)

**castle** [ˈkæsəl] – n. 1. цьвярды́ня, крэ́пасьць, цытадэ́ль *f.* 2. за́м|ак -ку, пала́ц -у *m.* 3. ладзьдзя́, тура́ *f.* (*у ша́хматах*)

– v.t. 1. умясьці́ць у цьвярды́ню. 2. рабі́ць ракіро́ўку (*у ша́хматах*)

**castle-builder** летуце́ньнік -а *m.*, летуце́ньніца *f.*

**castor** [ˈkæstər] n. 1. бабро́вы струме́нь. 2. бабро́вы капялю́ш. 3. бабл|ёр -ра́ *m.*

**castor oil** рыцы́на *f.*

**castor-oil plant** клешчаві́на

**castrate** [ˈkæstreɪt] v.t. лягча́ць, паклада́ць (*жывёліну*), кастрава́ць (*чалаве́ка*)

**castration** [kæˈstreɪʃən] n. лягча́ньне, паклада́ньне, кастрава́ньне *n.*, кастра́цыя *f.*

**casual** [ˈkæʒuəl] – adj. 1. выпадко́вы, непрадба́чаны, мімабе́глы: ***a casual meeting*** выпадко́вае спатка́ньне; ***a casual glance*** мімабе́глы по́зірк. 2. про́сты, бесцырымо́нны: ***casual manners*** про́стыя мане́ры. 3. часо́вы, ня-ста́лы: ***casual laborer*** рабо́тнік, які́ ня ма́е ста́лае пра́цы. 4. про́сты, выго́дны: ***casual clothing*** выго́дная во́пратка

– n. часо́вы рабо́тнік

**casually** [ˈkæʒuəli] adv. мімабе́гла, выпадко́ва

**casualty** [ˈkæʒuəlti] n., pl. **-ties** 1. ахвя́ра вы́падку. 2. ва́енныя стра́ты (*забі́тымі, пара́ненымі*). 3. нешчасьлі́вы вы́падак, катастро́фа *f.*; няўда́ча *f.*, няшча́сьце *n.*

**cat I** [kæt] – n. 1. кот ката́ *m.*, ко́тка *f.* 2. жывёліна зь сям'і́ кашэ́чых (*рысь, тыгр*). 3. зье́длівая, зло́сная жанчы́на. 4. Naut. снасьць для падыма́ньня я́кара. 6. бізу́н -а́ *m.*

– v.t. 1. бі́ць, лупцава́ць бізуно́м. 2 . падыма́ць я́кар

– adj. кашэ́чы, каці́ны

***• It rains cats and dogs*** Лі́е, як зь вядра́

***• let the cat out of the bag*** прагавары́цца, вы́даць сакрэ́т

***• When the cat's away the mice will play*** Ко́тка з ха́ты, мы́шы на по́куць

**cat II** [kæt] n., Informal гу́сенічны тра́ктар

**cataclysm** [ˈkætəˌklɪzəm] n. 1. катаклі́зм -у *m.* (*пато́п, землятру́с*). 2. гвалто́ўная зьме́на

**cataclysmal** or **cataclysmic** [ˌkætəˈklɪzmɪk] adj. як катаклі́зм, ве́льмі гвалто́ўны й нечака́ны, рапто́ўны

**catacomb** [ˈkætəkoʊm] n., usual **catacombs** катако́мбы *pl.*

**catafalque** [ˈkætəfɔːk] n. катафа́лк -а *m.*

**catalog** or **catalogue** [ˈkætəlɔːg] – n. 1. катал|ёг -у *m.* 2. рад -у *m.*; сэ́рыя *f.*: ***a catalog of misfortunes*** рад, сэ́рыя няўда́чаў. 3. прагра́ма *f.*, навуча́льны плян (*унівэрсытэ́цкі*)

– v.t. 1. рабі́ць катал|ёг. 2. упі́сваць, уно́сіць у катал|ёг

**catalysis** [kəˈtæləsɪs] n., pl. **-ses** ката́ліз -у *m.*

**catalyst** [ˈkætəlɪst] n. каталіза́тар -а *m.*

**catalyze** [ˈkætəlaɪz] v.t. каталізава́ць

**catalyzer** [ˈkætəlaɪzər] n. каталіза́тар -а *m.*

**cataract** [ˈkætərækt] n. 1. катара́кта *f.* (*на во́ку*). 2. а) вялі́кі стро́мы вадаспа́д. б) гвалто́ўнае цячэ́ньне вады́; паво́дка *f.*

**catarrh** [kəˈtɑːr] n. ка́тар -у *m.*, засту́да, прасту́да *f.*

**catastrophe** [kəˈtæstrəfi] n. 1. катастро́фа *f*, стыхі́йнае бе́дзтва, вялі́кая ня-

ўда́ча, няшча́сьце *n.* 2. катастрафі́чны кане́ц; пагі́бель, руі́на *f.*

**catastrophic** [ˌkætəˈstrɑ:fik] adj. катастрафі́чны

**catbird** [ˈkætbɜ:rd] n. дрозд, дразда́ *m.*

**catcall** [ˈkætkɔ:l] – n. 1. сьві́ст -у *m.* (*у тэа́тры*). 2. сьвісто́к -ка́ *m.*
– v.i. сьвіста́ць
– v.t. абсьві́стваць

**catch** [kætʃ] – v.t. **caught, catching** 1. лаві́ць; хапа́ць: ***They caught the thief*** Яны́ злаві́лі зло́дзея; ***to catch a ball*** лаві́ць мя́чык; ***to catch hold of something*** ухапі́ць за *што*. 2. засьпява́ць; лаві́ць; захапля́ць зьняна́цку: ***to catch a train*** пасьпе́ць на цягні́к. 4. схо́плівацьˌ захо́плівацьː ***to catch fire easily*** лёгка схапі́цца агнём, запа́львацца, загара́цца. 6. зачапляць: ***A nail caught her dress*** Яна́ зачапі́лася суке́нкай за цьві́к; ***The boat was caught in the reeds*** Чо́вен зачапі́ўся ў чаро́це
– v.i. 1. зачапля́цца, усчапля́цца; застрава́ць. 2. загара́цца, гарэ́ць
– n. 1. лаўле́ньне *n.*, захо́п -у *m.* 2. кля́мка (*у дзьвяра́х*), спуск -у *m.*, абаро́т у замку́. 3. уло́|ў -ву *m.*; здабы́ча *f.* 4. пажада́ная асо́ба для жані́мства: ***It's no catch*** Невялі́кая здабы́ча. 5. хі́трык -у *m.*, па́стка *f.*
– adj. 1. які́ прыця́гвае ўва́гу, зацікаўле́ньне. 2. хі́тры, падсту́пны: ***a catch question*** падсту́пнае пыта́ньне
• ***catch a cold*** застудзі́цца
• ***catch at*** а) хапа́цца. б) схапі́цца (*за прапано́ву*)
• ***catch it,*** Informal быць пакара́ным, атрыма́ць нагання́й: ***I caught it*** Мне ўляце́ла за гэ́та
• ***catch one's breath*** злаві́ць дых
• ***catch up*** даганя́ць: ***to catch up in school*** падцягну́цца ў наву́цы

**catching** [ˈkætʃɪŋ] adj. 1. зара́зьлівы (*пра сьмех*), зара́зны (*пра хваро́бу*). 2. захапля́льны, чаро́ўны; ціка́вы

**catchup** or **ketchup** [ˈketʃʌp] n. падлі́ўка *f.*: ***tomato catchup*** ке́чуп -у *m.*

**catchword** [ˈkætʃwɜ:rd] n. 1. мо́днае, тра́пнае сло́ўца. 2. а) загало́ўнае сло́ва ў сло́ўніку. б) калёнты́тул. 3. ключаво́е сло́ва

**catchy** [ˈkætʃi] adj. **-ier, -iest** 1. лёгказапаміна́льны. 2. прыцяга́льны. 3. падма́нлівы: ***One question on the test was catchy; everyone answered it wrong*** Адно́ пыта́ньне было́ падма́нлівае — усе́ памылі́ліся ў адка́зе

**catechism** [ˈkætəˌkɪzəm] n. 1. катэхі́зм -у *m.* 2. рад пыта́ньняў *або́* кні́жка пыта́ньняў і адка́заў яко́га-н. прадме́ту

**categorical** [ˌkætəˈgɔ:rɪkəl] adj. безумо́ўны; пэ́ўны, катэгары́чны

**categorize** [ˈkætɪgəraɪz] v.t. клясыфікава́ць, разьдзяля́ць на катэго́рыі

**category** [ˈkætəgɔ:ri] n., pl. **-ies** катэго́рыя, кля́са, гру́па *f.*

**catenate** [ˈkætəneɪt] – v. спалуча́ц|ь (-ца) у ланцу́г, сэ́рыі
– adj. ланцуго́вы

**cater** [ˈkeɪtər] v.i., v.t. 1. дастача́ць е́жу (*для засто́льля*). 2. дагаджа́ць, рабі́ць прые́мнасьць

**caterer** [ˈkeɪtərər] n. даста́ўнік е́жы й абслу́гі

**catering** [ˈkeɪtərɪŋ] n. абслу́га е́жай, засто́льле

**caterpillar** [ˈkætərpɪlər] – n. 1. ву́сен|ь -я *m.* (*матыля́*). 2. Tech. гу́сеніца *f.*
– adj. 1. Zool. ву́сеневы. 2. гу́сенічны: ***caterpillar tractor*** гу́сенічны тра́ктар

**cat-eyed** [ˈkætaɪd] adj. 1. здо́льны ба́чыць пацёмку. 2. з кашэ́чымі вачы́ма

**catfish** [ˈkætfɪʃ] n., pl. **-fishes** or coll **-fish** сом -а *m.*

**catgut** [ˈkætgʌt] n. 1. струна́ *f.* (*для скры́пкі або́ тэ́нісных ракетак*). 2. Med. ке́тгут (*для зашыва́ньня ра́наў*)

**cathedral** [kəˈθi:drəl] – n. ка́тэдра *f.*, катэдра́льны сабо́р
– adj. сабо́рны, катэдра́льны

**catheter** [ˈkæθətər] n., Med. катэ́тэр -а *m.*

**cathode** [ˈkæθoʊd] n. като́д -а *m.*

**catholic** [ˈkæθlɪk] adj. 1. а) шыро́кі, усёахо́пны, усеагу́льны. б) агу́льнахрысьція́нскі, экумэні́чны

**Catholic** [ˈkæθlɪk] – adj. 1. каталіцкі (*пра царкву́, ве́ру*). 2. які́ даты́чыць старахрысьція́нскае непадзе́льнае царквы́
– n. каталі́к -а́ *m.*, каталі́чка *f.*

**Catholicism** [kəˈθɑːləˌsɪzəm] n. каталіцы́зм -у *m.*, каталі́цтва *n.*

**catholicity** [ˌkæθəˈlɪsəti] n., pl. **-ties** 1. талера́нтнасць, лібэра́льнасьць *f.* 2. усеагу́льнасьць, пашы́ранасьць *f.*

**cation** [ˈkætˌaɪən] n. катыён -а *m.*, дада́тны іён

**catnap** [ˈkætnæp] – n. каро́ткі сон
– v. уздрамну́ць, задрама́ць

**cat-o'-nine-tails** бізу́н

**cat's-foot** [ˈkætsfʊt] n., Bot. блюшчык, расхо́днік -а *m.*

**catskinner** [ˈkætskɪnər] n. or **cat skinner**, Sl. трактары́ст -а *m.*, трактары́стка *f.*

**catsup** *гл.* **catchup**

**cattail** [ˈkætteɪl] n., Bot. 1. раго́з -у *m.* 2. каткі́ (*на вярбе́, лазе́*)

**cattle** [ˈkætəl] n. а) рага́тая жывёла, ста́т|ак -ку *m.*, бы́дла *n.*, скаці́на *f.* б) сво́йская жывёла, пагало́ўе *n.*, жывы́ інвэнта́р

**cattle feeder** ула́джаньне для падава́ньня ко́рму жывёле

**cattleman** [ˈkætəlmæn] n., pl. **-men** 1. жывёлагадо́|вец -ўца *m.* 2. ула́сьнік жывёлы. 3. пасту́х -а́ *m.*

**cattle pen** за́гарадка для жывёлы

**cattle run** вы́ган -у *m.* (*па́сьбішча*)

**cattle rustler** жывёлакра́д -а *m.*

**cattle show** сказ рага́тае жывёлы

**catty** [ˈkæti] adj. 1. зло́сны, зьедлівы. 2. кашэ́чы, каця́чы

**catwalk** [ˈkætwɔːk] n. 1. ву́зкі прахо́д, мо́сьцік -а *m.* 2. пам́ост -а (*для пака́зу мо́даў*)

**Caucasian** [kɔːˈkeɪʒən] – adj. 1. які́ ма́е дачыне́ньне да бе́лае ра́сы. 2. каўка́скі
– n. 1. асо́ба бе́лае ра́сы. 2. каўка́з|ец -ца *m.*

**caucus** [ˈkɔːkəs] – n. партый́ная нара́да
– v.i. право́дзіць партый́нае пасе́джаньне

**caudal** [ˈkɔːdəl] adj. за́дні, блі́зкі да хваста́

**caught** [kɔːt] v., *p.t. and p.p. of* **catch**

**cauldron** [ˈkɔːldrən] n. вялі́кі каза́н, ка|цёл -тла́ *m.*

**cauliflower** [ˈkɑːlɪˌflaʊr] n. каляфіёр -у *m.*, цьвятна́я капу́ста

**caulk** [kɔːk] v. затыка́ць, зама́зваць (*дзі́ркі*), канапа́ціць

**causal** [ˈkɔːzəl] adj. прычы́нны: ***causal conjunctions*** прычы́нныя злу́чнікі

**causality** [kɔːˈzæləti] n., pl. **-ties** прычы́ннасьць *f.*, прычы́нная су́вязь

**causative** [ˈkɔːzətɪv] adj. 1. які́ спрычыня́е *або́* выклікае што-н. 2. Gram. прычы́нны

**cause** [kɔːz] – n. 1. прычы́на *f.* 2. наго́да *f.*: ***a cause for celebration*** наго́да для сьвяткава́ньня, падста́ва *f.* 3. спра́ва *f.*: ***common cause*** агу́льная спра́ва. 4. судо́вая спра́ва, судо́вы працэ́с
– v.t. спрычыня́ць, быць прычы́най, выкліка́ць: ***to cause joy*** ра́даваць, це́шыць
• ***make common cause with*** далуча́цца да каго́-н. для агу́льнае спра́вы

**causeway** [ˈkɔːzweɪ] – n. 1. грэ́бля *f.*, даро́га на падвышэ́ньні. 2. брук -у *m.* (*даро́га*)
– v.t. 1. насла́ць грэ́блю, праве́сьці даро́гу. 2. брукава́ць

**caustic** [ˈkɔːst ɪk] – adj. 1. е́дкі, які́ разьяда́е, каўсты́чны: ***caustic soda*** каўсты́чная со́да. 2. е́дкі, зьедлівы, калю́чы, саркасты́чны: ***caustic remarks*** зьедлівыя заўва́гі
– n. е́дкае рэ́чыва

**cauterization** [ˌkɔːtərəˈzeɪʃən] n., Med. прыпяка́ньне *n.*

**cauterize** [ˈkɔːtəraɪz] v.t. 1. прыпяка́ць (*ра́ну*). 2. рабі́ць нячу́лым

**caution** [ˈkɔːʃən] – n. 1. асьцяро́жнасьць, аба́члівасьць *f.* 2. перасьцяро́га *f.*
– v.t. перасьцерага́ць

**cautionary** [ˈkɔːʃəneri] adj. перасьцерага́льны

**cautious** [ˈkɔːʃəs] adj. асьцяро́жны, аба́члівы

**cautiously** [ˈkɔːʃəsli] adv. асьцяро́жна
**cavalcade** [ˌkævəlˈkeɪd] n. кавалька́да *f.*, групава́я прагу́лка на ко́нях
**cavalier** [ˌkævəˈlɪr] – n. 1. ко́ньнік -а, кавалеры́ст -а, ры́цар -а *m.* 2. кавале́р, джэнтэльмэ́н -а *m.*
– adj. фанабэ́рысты, ганары́сты, ганарлі́вы
**cavalry** [ˈkævəlri] n., pl. **-ies,** Milit. 1. ко́ньніца, кавале́рыя *f.* 2. ко́ньнікі *pl.*, ко́ні *pl.*
**cavalryman** [ˈkævəlrɪmən] n., pl. **-men** кавалеры́ст -а *m.*
**cave** [keɪv] – n. 1. пячо́ра *f.* 2. запа́дзіна *f.*
– v.t. капа́ць пячо́ру
• ***cave in*** а) запада́ц|ь (-ца). б) зава́львац|ь (-ца), завалі́ц|ь (-ца). в) Informal паддава́цца, здава́цца
**cave dweller** пячо́рны жыха́р
**cave-in** [ˈkeɪvɪn] n. запа́дзіна, упа́дзіна *f.*; абва́л -у *m.*
**cave man** пячо́рны чалаве́к
**cavern** [ˈkævərn] – n. вялі́кая пячо́ра
– v.t. 1. схава́ць, як у пячо́ру. 2. вы́капаць, пракапа́ць (*скалу́*)
**cavernous** [ ˈkævərnəs] adj. 1. вялі́кі й пусты́. 2. пячо́рны, магі́льны: ***cavernous darkness*** магі́льная це́мра. 3. пячо́рысты: ***cavernous mountains*** пячо́рыстыя го́ры. 4. по́рысты
**caviar** [ˈkæviɑːr] n. ікра́ *f.* (*ры́бная*)
**cavil** [ˈkævəl] – v.i. чапля́цца; дашу́квацца недахо́паў
– n. прыдзі́рка *f.*; чапля́ньне *n.*
**cavity** [ˈkævəti] n., pl. **-ties** 1. дзі́рка *f.* (*у зу́бе*). 2. по́ласьць *f.*: ***abdominal cavity*** брушна́я по́ласьць
**cavort** [kəˈvɔːrt] v.i. бе́гаць, гарцава́ць (*пра ко́ней, дзяце́й*), скака́ць
**caw** [kɔː] – n. ка́рканьне *n.*
– v.i. ка́ркаць
**cayenne** [keɪˈen] n. or **cayenne pepper** чырво́ны стручко́вы пе́рац; парашо́к з гэ́тага пе́рцу
**cease** [siːs] v. 1. спыня́ц|ь (-ца); пераставаць. 2. Obsol. паме́рці. 3. затры́мваць: ***Cease fire!*** Спыні́ць стралянíну!
• ***without cease*** без канца́, несьціха́на; бяско́нца
**cease-fire** [ˈsiːsˌfaɪr] n. спыне́ньне вае́нных дзе́яньняў, замірэ́ньне *n.*
**ceaseless** [ˈsiːsləs] adj. безупы́нны: ***ceaseless effort*** безупы́нныя намага́ньні
**cedar** [ˈsiːdər] – n. 1. ке́д|ар -ра *m.* (*дрэ́ва*). 2. ке́д|ар -ру *m.* (*драўні́на*)
– adj. ке́дравы
**cede** [siːd] v. 1. перадава́ць (*тэрыто́рыю*). 2. саступа́ць
**ceiling** [ˈsiːlɪŋ] n. 1. а) столь *f.* б) перакрыва́ньне, тынкава́ньне сто́лі. 2. Aeron. столь *f.*: ***absolute ceiling*** грані́чная вышыня́. 3. ма́ксымум -у *m.*, мяжа́ *f.* (*цэ́наў, заро́бкаў*)
• ***hit the ceiling,*** Sl. шале́ць ад зло́сьці
**celebrate** [ˈseləbreɪt] v.i. 1. сьвяткава́ць, урачы́ста адзнача́ць, спраўля́ць. 2. адпраўля́ць, служы́ць (*імшу́, абе́дню*). 3. сла́віць, апява́ць, праслаўля́ць
**celebrated** [ˈseləbreɪtɪd] adj. сла́ўны; агу́льнавядо́мы, славу́ты, прасла́ўлены
**celebration** [ˌseləˈbreɪʃən] n. 1. сьвяткава́ньне *n.*, урачы́стае адзначэ́ньне, ушанава́ньне *n.* 2. адпраўля́ньне, служэ́ньне (*імшы́, абе́дні*)
**celebrity** [səˈlebrəti] n., pl. **-ties** 1. вядо́мы, прасла́ўлены чалаве́к. 2. славу́тасьць *f.*, шыро́кая папуля́рнасьць
**celerity** [səˈlerəti] n. шпа́ркасьць, імклíвасьць; ху́ткасьць *f.* (*ру́ху*)
**celery** [ˈseləri] n., Bot. сале́ра *f.*, сельдэрэ́|й -ю *m.*
**celestial** [səˈlestʃəl] – adj. 1. нябе́сны: ***celestial bodies*** нябе́сныя це́лы. 2. ве́льмі до́бры, прыго́жы, пы́шны, раско́шны
– n. Figur. жыха́р не́ба
**celibacy** [ˈseləbəsi] n., pl. **-cies** 1. бясшлю́бнасьць *f.* 2. цэліба́т -у *m.* (*стан*)
**celibate** [ˈseləbət] – n. 1. нежана́т|ы -ага *m.*, халаст|ы́ -о́га *m.*; неза́мужняя *f.* 2. цэліба́т -а *m.* (*асо́ба*)
– adj. нежана́ты, неза́мужняя, бясшлю́бны: ***celibate life*** а) бясшлю́бнае жыцьцё. б) жыцьцё ў цэліба́це

**cell** [sel] n. 1. Biol. клётка *f.* 2. ячэйка *f.*, палітычная група. 3. а) турэмная камера. б) кельля ў манастыры. 4. Electr. элемэнт -у *m.*

**cellar** [ˈselər] – n. 1. склеп -у *m.* а) для гароднiны, дроваў. б) вiнны склеп: ***an abundant cellar*** багатыя запасы вiна. 2. падвал -у *m.*, сутарэньне *n.*
– v. складаць, хаваць у склеп

**cello** [ˈtʃelou] n. (*скарочанае ад* **violoncello**) віялянчэль *f.*

**cellophane** [ˈseləfeɪn] – n. цэляфан -у *m.*
– adj. цэляфанавы

**cellular** [ˈseljələr] adj. 1. клётачны. 2. якi складаецца з клётак

**cellular phone** or **telephone** сотавы тэлефон; сотавiк, мабiльнiк -а *m.*

**cellulation** [ˌseljəˈleɪʃən] n. паўставаньне клётак

**cellule** [ˈselju:l] n., dim. малая клётачка

**celluloid** [ˈseljəlɔɪd] – n. цэлюлёйд -у *m.*
– adj. цэлюлёйдавы, цэлюлёйдны

**cellulose** [ˈseljəlous] n. цэлюлёза *f.*

**Celt** [kelt] n. кельт -а *m.*

**Celtic** [ˈkeltɪk] – adj. кельцкi
– n. кельцкая мова

**cement** [səˈment] – n. 1. цэмэнт -у *m.* 2. вяжучае рэчыва. 3. Figur. сувязь *f.*, злучальная сiла
– v. 1. цэмэнтаваць. 2. склейваць. 3. замацоўваць (*прыязнь, сувязь*)

**cement mixer** цэмэнтамяшалка *f.*

**cemetery** [ˈseməteri] n., pl. **-ries** могiлкi *pl. only*

**cense** [sens] v. кадзiць

**censer** [ˈsensər] n. кадзiла *n.*

**censor** [ˈsensər] – n. 1. цэнзар -а *m.* 2. прыдзiрлiвы крытык; ахоўнiк -а *m.* (*правiлаў, нораваў*)
– v.t. цэнзураваць, праводзiць цэнзуру

**censorial** [senˈsɔ:riəl] adj. цэнзарскi

**censorious** [senˈsɔ:riəs] adj. празьмерна крытычны, прыдзiрлiвы

**censorship** [ˈsensərʃɪp] n. 1. цэнзура *f.* 2. пасада цэнзара, цэнзарства *n.*

**censure** [ˈsenʃər] – n. ганьбаваньне *n.*, вымова *f.*, асуджэньне *n.*, крытыка *f.*
– v. 1. ганiць, знаходзiць заганы, недахопы. 2. крытыкаваць

**census** [ˈsensəs] n. перапiс -у *m.*

**cent** [sent] n. 1. цэнт -а *m.* 2. сто; сотня *f.*: ***per cent*** працэнт -а *m.*; ***ten per cent*** дзесяць працэнтаў

**centaur** [ˈsentɔ:r] n. цэнтаўр -а *m.*

**Centaur** сузор'е Цэнтаўра

**centenarian** [ˌsentənˈeriən] n. якi мае сто гадоў, стогадовы -ага *m.*, стогадовая *f.*

**centenary** [senˈtenəri] – n., pl. **-naries** 1. стагодзьдзе *n.* (*угодкi*). 2. адзначэньне стагодзьдзя. 3. стагодзьдзе *n.*, век -у *m.*
– adj. стогадовы

**centennial** [senˈteniəl] – n. 1. стагодзьдзе *n.*, сотыя ўгодкi. 2. сьвяткаваньне стагодзьдзя
– adj. стогадовы (*чалавек*)

**center** [ˈsentər] – n. 1. цэнт|ар -ру *m.*, сярэдзiна *f.*: ***center of the solar system*** цэнтар сонечнае сыстэмы; ***the center of a room*** сярэдзiна пакою; ***center of attraction*** а) цэнтар прыцягненьня. б) цэнтар увагi. 2. цэнт|ар -ру, асяродз|ак -ку *m.* (*месца, установа*): ***a center of trade*** гандлёвы цэнтр. 3. група цi асобы з умеранымi паглядамi: ***left of center*** левы (*пра пагляды*). 4. Sport цэнт|ар -ра *m.*, асноўны гулец
– v.t. 1. зьмяшчаць|ь (-ца) ў сярэдзiне. 2. цэнтраваць

**center of gravity** цэнтар цяжару

**centerpiece** [ˈsentərpi:s] n. аздоба на сярэдзiне стала

**centigrade** [ˈsentəgreɪd] adj. стоградусны, падзелены на 100 частак

**centigrade thermometer** тэрмомэтар Цэльсiя

**centigram**, Brit. **centigramme** [ˈsentəgræm] n. сантыграм -а *m.*

**centime** [ˈs:ɑnti:m] n. сантым -а *m.* ( *1/100 франка*)

**centimeter** [ˈsentəˌmi:tər] n. or **centimetre,** Can., Brit. сантымэт|ар -ра *m.*

**centipede** [ˈsentəɪpi:d] n. станожка *f.*

**centner** [ˈsentnər] n. цэнтнэр -а *m.*

**central** [ˈsentrəl] – adj. 1. сярэ́дні, цэнтра́льны, які́ знахо́дзіцца ў сярэ́дзіне, у цэ́нтры: ***the central railroad station*** цэнтра́льная ста́нцыя. 2. гало́ўны, кіру́ючы, вяду́чы: ***the central library*** гало́ўная бібліятэ́ка; ***the central idea in the story*** гало́ўная ду́мка ў апавяда́ньні
– n. цэнтра́льная тэлефо́нная ста́нцыя

**Central American** з Цэнтра́льнае Амэ́рыкі, жыха́р Цэнтра́льнае Амэ́рыкі

**central heating** цэнтра́льнае ацяпле́ньне

**centralism** [ˈsentrəˌlɪzəm] n. цэнтралі́зм -у *m.*

**centralization** [ˌsentrələˈzeɪʃən] n. цэнтраліза́цыя *f.*, кірава́ньне з цэ́нтру

**centralize** [ˈsentrəlaɪz] v.t. цэнтралізава́ц|ь (-ца), канцэнтрава́ць у адны́м цэ́нтры, аб'ядно́ўваць у адны́м ме́сцы, у адны́х рука́х

**centrifugal** [ˌsentrɪˈfju:gəl] adj. 1. цэнтрабе́жны. 2. Physiol. які́ адво́дзіць ад цэ́нтру (*пра нэ́рвы, крывяно́сныя сасу́ды*)

**centrifugal force** цэнтрабе́жная сі́ла

**centrifuge** [ˈsentrɪfju:dʒ] – n. цэнтрыфу́га *f.* (*для малака́, мёду*)
– v.t. адця́гваць цэнтрыфу́гай

**centripetal** [senˈtrɪpətəl] adj. цэнтраімклі́вы: ***centripetal force*** цэнтрамклі́вая сі́ла

**centuple** [senˈtu:pəl] – adj. стоpазо́вы
– v.t. памно́жыць на сто, набо́льшыць у сто разо́ў

**century** [ˈsentʃəri] n., pl. **-ries** 1. стаго́дзьдзе *n.*, век -у *m.*: ***of many centuries*** шматвяко́вы. 2. сто гадо́ў. 3. со́тня *f.*

**century plant** мэксыка́нская ага́ва

**cephalic** [səˈfælɪk] adj., Anat. галаўны́, на *або́* ў галаве́

**cephalopod(s)** [ˈsefələpɑ:d] n., Zool. галаваноґія (*марскі́я малю́скі*)

**ceramic** [səˈræmɪk] – adj., *такс.* **keramic** ганча́рны, ганча́рскі
– n. ганча́рны *або́* парцаля́навы вы́раб

**ceramics** [səˈræmɪks] n., pl. 1. ганча́рная вытво́рчасьць, кера́міка *f.* 2. глiня́ныя *або́* парцаля́навыя вы́рабы

**ceramist** [ səˈræmɪst] n. 1. ганча́р -а́ *m.* 2. зна́ўца кера́мікі

**cereal** [ˈsɪriəl] n. 1. збо́жжавыя расьлі́ны, збажына́ *f.* 2. кру́пы *pl.* 3. ка́ша, аўся́нка, ма́нна *f.* 4. шматкі́ *pl.* (*круп*): ***corn cereal*** кукуру́зныя шматкі́

**cerebellum** [ˌserəˈbeləm] n., pl. **-s, -bella** [ -ˈbelə] Anat. мазжачо́к -ка́ *m.* (*аддзе́л мо́згу*)

**cerebral** [ˈserəbrəl] adj., Anat. мазгавы́: ***cerebral hemispheres*** мазгавы́я паўку́лі; ***a cerebral hemorrhage*** крывазьлі́цьцё ў мозг

**cerebrum** [səˈri:brəm] n., pl. **-s, -bra** галаўны́я мазгі́

**ceremonial** [ˌserəˈmoʊniəl] – adj. 1. фарма́льны. 2. абра́давы, рытуа́льны
– n. 1. цырыманія́л -у *m.* 2. абра́д, рытуа́л -у *m.*

**ceremonious** [ˌserəˈmoʊniəs] adj. 1. цырыманія́льны. 2. ве́льмі фарма́льны, цырымо́нны, празьме́рна ве́тлівы

**ceremony** [ˈserəmoʊni] n., pl. **-nies** 1. абра́д -у *m.* (*вясе́льны, царко́ўны*). 2. цырымо́нія, ве́тлівасьць *f.* 3. пуста́я фарма́льнасьць
• ***stand on ceremony*** трыма́цца зана́дта фарма́льна, зана́дта ве́тліва

**cerise** [səˈri:z] n. вішнёвы ко́лер, ві́шня *f.*

**certain** [ˈsɜ:rtən] adj. 1. пэ́ўны, пераканáны: ***He is certain to come*** Ён напэ́ўна пры́йдзе. 2. вы́значаны, усталява́ны: ***at a certain hour*** а вы́значанай гадзі́не. 3. пэ́ўны, надзе́йны, бясспрэ́чны, верагóдны: ***a certain information*** верагóдная інфарма́цыя. 4. адзі́н, пэ́ўны, не́йкі; некато́ры: ***certain nations*** некато́рыя наро́ды; ***of a certain age*** у пэ́ўным ве́ку; ***a certain person*** не́йкая асо́ба
• ***for certain*** напэ́ўна

**certainly** [ˈsɜ:rtənli] adv. 1. напэ́ўна, пэ́ўна. 2. бес сумне́ву, бясспрэ́чна

**certainty** [ˈsɜ:rtənti] n., pl. **-ties** 1. пэ́ўнасьць, пераканáнасьць *f.* 2. пэ́ўны, бясспрэ́чны факт

**certificate** [sərˈtɪfɪkət] – n. пасьве́дчаньне *n.*, даве́дка *f.*: ***birth certificate*** пасьве́дчаньне аб нараджэ́ньні, мэ́трыка *f.*; ***health certificate*** даве́дка аб ста́не здаро́ўя, мэды́чнае пасьве́дчаньне
– v.t. пісьмо́ва пасьве́дчыць, вы́даць пасьве́дчаньне

**certification** [ˌsɜ:rtɪfɪˈkeɪʃən] n. 1. заве́раньне, засьве́дчаньне *n.* 2. вы́дача дыплёмаў

**certified** [ˈsɜ:rtɪfaɪd] adj. 1. гарантава́ны. 2. заве́раны: ***certified check*** заве́раны чэк. 3. дыплямава́ны, з дыплёмам: ***a certified teacher*** дыплямава́ны наста́ўнік

**certify** [ˈsɜ:rtɪfaɪ] v.t. 1. засьве́дчваць, заверáць (*по́дпісам і пяча́ткай*). 2. пасьве́дчваць, пацьвярджа́ць (*пра́вільнасьць, праўдзі́васьць*). 3. гарантава́ць (*цану́, я́касьць*)

**certitude** [ˈsɜ:rtətu:d] n. пэ́ўнасьць, перакана́насьць *f.*

**cerulean** [səˈru:liən] adj. блакі́тны, васількóвы

**cerumen** [səˈru:men] n. вушны́ воск

**cervical** [ˈsɜ:rvɪkəl] adj. шы́йны, паты́лічны: ***cervical vertebrae*** шы́йныя пазванкі

**cervix** [ˈsɜ:rvɪks] n., pl. **-vixes** or **-vices** 1. паты́ліца *f.*, зад шы́і. 2. шы́йка *f.* (*ма́ткі*)

**cessation** [ sesˈeɪʃən] n. 1. спыне́ньне *n.*, прыпы́н|ак -ку *m.*: ***a cessation of hostilities*** спыне́ньне вае́нных дзе́яньняў, замірэ́ньне *n.* 2. перапы́н|ак -ку *m.*

**cession** [ˈseʃən] n. перада́ча *f.* (*право́ў*); састу́пка *f.*

**cesspit** [ˈsespɪt] n. зва́лка *f.*

**cesspool** [ˈsespu:l] n. 1. каналізацы́йная я́ма, каналіза́цыя *f.* 2. Figur. бруд -у *m.*, падóнкі, нізы́ *pl.*

**cestoid** [ˈsestɔɪd] adj., Zool. салітэ́р -а *m.*

**cevitamic acid** вітамі́н С

**Ceylonese** [ˌseləˈni:z] – adj. цэйлёнскі
– n. цэйлён|ец -ца *m.*, цэйлёнка *f.*

**chafe** [tʃeɪf] – v.t. 1. націра́ць (*ра́ну, мазо́ль*), наму́львáць. 2. расьціра́ць (*каб сагрэ́ць*). 3. праціра́ць, прашаро́ўваць (*дзі́рку*). 4. Figur. злава́ць, раздражня́ць. 5. Obsol. грэць, разаграва́ць
– v.i. 1. праціра́цца, прашаро́ўвацца (*пра во́пратку*). 2. (*пра мо́ра*) бурлі́ць, бурлі́цца, пе́ніцца, бушава́ць
– n. 1. раздражне́ньне *n.*, злосьць *f.* 2. трэ́ньне, шарава́ньне, націра́ньне *n.* 3. нацёртая, наму́леная ра́нка

**chaff I** [tʃæf] n. 1. мякі́на *f.* 2. се́чка *f.* (*на корм*): ***chaff cutter*** сячка́рня *f.*

**chaff II** [tʃæf] – v., Informal кпі́ць, паджартóўваць
– n. паджартóўваньне *n.*

**chaffer** [ˈtʃæfər] – n. таргава́ньне *n.* (*пра цану́*)
– v. 1. таргава́цца. 2. перапрадава́ць; мяня́ць. 3. Figur. перакі́двацца сло́вамі

**chaffinch** [ˈtʃæfɪntʃ] n. берасьця́нка *f.* (*пту́шка*)

**chaffy** [ˈtʃæfi] adj. 1. зь мякі́най; мякі́нны. 2. Figur. бязва́ртасны

**chagrin** [ʃəˈgrɪn] – n. расчарава́ньне, засмучэ́ньне *n.*
– v. засмуча́ць; расчаро́ўваць; дайма́ць (*да жыво́га*); дапяка́ць

**chain** [tʃeɪn] – n. 1. ланцу́г -а́ *m.*, ланцужо́к -ка́ *m.* 2. по́вязь *f.*, ланцу́г -а́ *m.*: ***a mountain chain*** го́рны ланцу́г. 3. a) пу́ты, кайданы́ *pl. only.* 4. Figur. по́вязь *f.*; ву́зы, пу́ты *pl. only*: ***chains of love*** пу́ты каха́ньня; ***chains of duty*** по́вязі абавя́зку. 5. Figur. пасьлядóўнасьць *f.*: ***chain of events*** пасьлядóўнасьць падзе́яў
– v. 1. зьвя́зваць ланцуго́м. 2. скóўваць, прыкóўваць. 3. паняво́ліць, заку́ць у кайданы́
– adj. ланцуго́вы: ***chain bridge*** ланцуго́вы мост
• ***chain letters*** пірамі́дныя лісты́ (*рассыла́ючца паво́дле пры́нцыпу «пірамі́ды»*)
• ***chain mail*** кальчу́га
• ***chain of command*** ле́сьвічная сыстэ́ма падпара́дкаваньня, ле́сьвіца кірава́ньня

• ***chain reaction*** ланцуго́вая рэа́кцыя
• ***chain saw*** ланцуго́вая піла́
• ***chain smoke*** куры́ць безупы́нна
**chainlet** [ˈtʃeɪnlɪt] n. ланцужлóк -ка́ *m.*
**chain-stitch** [ˈtʃeɪnstɪtʃ] v. 1. вышыва́ць ланцужко́м. 2. вяза́ць ланцужко́м (*во́чка ў во́чка*)
**chain stores** кра́мы аднаго́ ты́пу й аднае́ фі́рмы; се́тка кра́маў
**chair** [tʃer] – n. 1. крэ́сла *n.* 2. ка́тэдра *f.*, паса́да прафэ́сара, прафэсу́ра *f.* (*ва ўнівэрсытэ́це*). 3. старшыня́ -í *m. & f.*: ***to address the chair*** зварача́цца да старшыні́. 4. пала́нкін -а *m.* 5. электры́чнае крэ́сла
– v. 1. старшынява́ць: ***to chair a meeting*** ве́сьці сход. 2. дава́ць *каму́* ва́жнае стано́вішча. 3. садзі́ць у крэ́сла
• ***get the chair,*** Informal быць засу́джаным на сьмерць на электры́чным крэ́сьле
• ***take the chair*** а) пача́ць сход, пасе́джаньне. б) старшынява́ць на схо́дзе
**chairman** [ˈtʃermən] – n., pl. **-men** старшыня́ -í *m.*
– v. быць старшынём, старшынява́ць
**chairmanship** [ˈtʃermənʃɪp] n. старшыня́ваньне, старшы́нства *n.*, стано́вішча *або́* абавя́зкі старшыні
**chairwoman** [ˈtʃerˌwʊmən] – n., pl. **-women** старшыня́ *f.* (*жанчы́на*)
**chaise** [ʃeɪz] n. 1. фаэто́н -а *m.* 2. партшэ́з -а *m.*
**chalet** [ʃæˈleɪ] n.1. ха́тка *або́* бу́дка ў швэйца́рскіх го́рах. 2. швэйца́рскі дом, дом у швэйца́рскім сты́лі
**chalice** [ˈtʃælɪs] n. 1. ча́ра *f.*, ке́ліх -а *m.* 2. ча́ша *f.* (*для прыча́сьця*). 3. кве́тка ў фо́рме ке́ліха
**chalk** [tʃɔ:k] – n. 1.крэ́йда *f.*, мел -у *m.*: ***chalk bed*** за́лежы крэ́йды. 2. крэ́йда *f.* (*для піса́ньня*). 3. паве́р -у *m.*, доўг, до́ўгу *m.* (*асабл. у карчме́*)
– v. 1. піса́ць, малява́ць крэ́йдаю. 2. це́рці, чы́сьціць крэ́йдаю. 3. угно́йваць глébу ва́пнаю
– adj. крэ́йдавы: ***chalk lime*** крэ́йдавая ва́пна
• ***chalk one up*** здабы́ць перава́гу
• ***chalk out*** накі́даць плян
• ***chalk up*** запіса́ць; зрабі́цьната́тку
**chalky** [ˈtʃɔ:ki] adj. **-ier, -iest** 1. крэ́йдавы. 2. як з крэ́йды, бе́лы як крэ́йда
**challenge** [ˈtʃælɪndʒ] – v. 1. выкліка́ць (*на спабо́рніцтва, дуэ́ль*). 2. аклі́кнуць, затрыма́ць (*каб папыта́ць про́пуск*). 3. аспрэ́чваць; паддава́ць сумне́ву. 4. Law аспрэ́чваць прыся́жных
– n. 1. вы́клік -у *m.* (*на спабо́рніцтва, дуэ́ль*). 2. во́клік вартаво́га «хто ідзе́?»
**chamber** [ˈtʃeɪmbər] – n. 1. пако́й -ю (*у до́ме*), спа́льня, за́ля *f.* (*у пала́цы*). 2. пала́та (*у парля́мэнце*), ме́сца пасе́джаньняў
– adj. ка́мэрная, пакаёвая: ***chamber music*** ка́мэрная му́зыка
**chamber concert** ка́мэрны канцэ́рт
**chamber maid** пакаёўка *f.*
**chamber of commerce** гандлёвая пала́та
**chameleon** or **chamaeleon** [kəˈmi:liən] n.1. хамэлео́н -а *m.* (*я́шчарка*). 2. чалаве́к-прыстасава́нец
**champ I** [tʃæmp] – v. 1. ча́ўкаць, чвя́каць, го́ласна жава́ць. 2. куса́ць ке́лзы (*пра каня́*)
– n. чвя́каньне *n.*
**champ II** [tʃæmp] n, Informal чэмпіён -а *m.*
**champagne** [ˌʃæmˈpeɪn] – n. 1. шампа́нскае віно́. 2. сьве́тла-жо́ўты ко́лер
– adj. сьве́тла-жо́ўты
**champaign** [ˈtʃæmpeɪn] n. шыро́кая раўні́на
**champion** [ˈtʃæmpjən] – n. 1. чэмпіён -а *m.*, чэмпіёнка *f.* 2. змага́р -á *m.*, змага́рка *f.*; абаро́нца -ы *m.*, прыхі́льнік -а *m.*: ***a great champion of peace*** вялі́кі змага́р за мір *або́* прыхі́льнік мі́ру
– adj. першара́дны, які́ ўзя́ў пе́ршае ме́сца
– v. змага́цца за *што*, барані́ць, падтры́мваць
**championship** [ˈtʃæmpjənʃɪp] n. 1. чэмпіяна́т -у *m.*; пе́ршае ме́сца, першын-

ство́ *n.* 2. абаро́на, падтры́мка *f.*: ***He took over the championship of our cause*** Ён пераня́ў абаро́ну на́шай агу́льнай спра́вы

**chance** [tʃæns] – n. 1. наго́да *f.*, шанс, ша́н|ец -цу *m.*: ***It's his last chance*** Гэ́та ягоны апо́шні ша́нец. 2. магчы́масьць, праўдападо́бнасьць *f.* 3. лёс -у *m.*, уда́ча *f.*, шча́сьце *n.* 4. здарэ́ньне *n.*, вы́пад|ак -ку *m.* 5. ры́зыка *f.*, аза́рт -у *m.*: ***to take a chance*** рызыкава́ць

– v. 1. зда́рыцца выпадко́ва: ***I chanced to meet an old friend today*** Я выпадко́ва спатка́ў сёньня старо́га ся́бру. 2. выпа́дко́ва даве́дацца: ***He chanced to know*** Ён выпадко́ва даве́даўся

– adj. выпадко́вы: ***a chance visit*** выпадко́вы візы́т

• ***by chance*** выпадко́ва

• ***chance upon*** выпадко́ва натра́піць на *каго́-што*

• ***on the chance*** наўда́чу, спадзеючы́ся

• ***stand a chance*** мець ша́нцы, надзе́ю

• ***the chances are*** праўдападо́бна

• ***the main chance*** бага́цьце

**chancellery** [ˈtʃænsələri] n., pl. **-leries** 1. ка́нцлерства *n.* (*паса́да й буды́нак*). 2. сядзі́ба амбаса́ды

**chancellor** [ˈtʃænsələr] n. 1. ка́нцлер -а *m.*: ***Chancellor of the Exchequer*** мі́ністар фіна́нсаў у Вялікабрыта́ніі; ***Lord High Chancellor*** лёрд-канцле́р (*найвышэ́йшы судзьдзя́ Вялікабрыта́ніі*). 2. вярхо́ўны судзьдзя́. 3. ка́нцлер (*у Аўстрыі, Няме́ччыне*). 4. прэзыдэ́нт унівэрсытэ́ту

**chandelier** [ˌʃændəlˈɪr] n. жырандо́ль *f.*

**change** [tʃeɪndʒ] – v. 1. зьмяня́ць|ь(-ца). 2. мяня́ць, перамяня́ць: ***to change seats*** памяня́ць ме́сцы, памяня́цца ме́сцамі); ***to change trains*** перасе́сьці, зрабі́ць перася́дку; ***to change a ten-dollar bill*** разьмяня́ць дзесяцідаляро́вы банкно́т; ***to change dollars into pounds*** вы́меняць даля́ры на фу́нты. 3. пераапрана́цца. 4. мяня́ць ква́дру (*пра ме́сяц*)

– n. 1. зьме́на, пераме́на *f.*: ***for a change*** для разнаста́йнасьці. 2. зьме́на во́праткі. 3. рэ́шта *f.* (*гро́шай*). 4. дро́бныя гро́шы. 5. зьме́на ква́дры (*ме́сяца*)

**change of life** клімактэры́чны пэры́яд

**changeable** [ˈtʃeɪndʒəbəl] adj. 1. пераме́нлівы, зьме́нны (*які́ мо́жна зьмяні́ць*), няста́лы, няўсто́йлівы. 2. зьме́нлівы: ***changeable hue*** зьме́нлівае адце́ньне

**changeful** [ˈtʃeɪndʒfəl] adj. зьме́нлівы, по́ўны зьме́наў

**changeless** [ˈtʃeɪndʒləs] adj. нязьме́нны, ста́лы, які́ не мяня́ецца

**changeover** [ˈtʃeɪndʒˌoʊvər] n. 1. пераключэ́ньне *n.* 2. зьме́на *f.*: ***changeover in editors*** зьме́на рэда́ктараў

**channel** [ˈtʃænəl] – n.1. праліў -ву *m.* 2. кана́л -у *m.*, рэ́чышча *n.* 3. сьцёк -у *m.*, сьцёкавы роў, шлях -у *m.* 4. крыні́ца *f.*: ***channels of information*** крыні́цы, шляхі́ інфарма́цыі. 5. Radio гукавы́ тракт. 6. тэлевізы́йны кана́л

– v.t. 1. прарэ́зваць кана́л (*пра раку́*). 2. перавозі́ць кана́лам. 3. накіро́ўваць

**chant** [tʃænt] – n. 1. пе́сьня *f.*; мэлёдыя *f.*, сьпеў -ву *m.* 2. праця́жнае пяя́ньне *або́* чыта́ньне (*у царкве́*), песнапе́ньне *n.* 3. сьпе́ўная інтана́цыя (*у гу́тарцы*)

– v.1. пяя́ць; праця́жна пяя́ць. 2. чыта́ць, гавары́ць нарасьпе́ў. 3. Poet. апява́ць

**chanterelle** [ˌʃæntəˈrel] n. лісі́чка *f.* (*грыб*)

**chaos** [ˈkeɪɑːs] n. хао́с, бязла́д -у, беспара́д|ак -ку *m.*, блытані́на *f.*

**chaotic** [keɪˈɑːtɪk] adj. хааты́чны

**chap I** [tʃæp] – v. трэ́скацца, сівярэ́ць (*пра ру́кі на ве́тры*)

– n. трэ́шчына *f.* (*у ску́ры*); расшчэ́піна *f.*

**chap II** [tʃæp] n., Informal чалаве́к -а *m.*; хлап|е́ц -ца́ *m.*, хлапчы́н|а -ы *m.*

**chapel** [ˈtʃæpəl] n. 1. капліца, каплічка *f.* 2. капэ́ла *f.* 3. мале́льня *f.*

**chaplain** [ˈtʃæplɪn] n. капэля́н -а *m.*

**chapter** [ˈtʃæptər] – n. 1. разьдзе́л -у *m.* (*кнігі*). 2. аддзе́л -у *m.* (*арганіза́цыі, клю́бу*). 3. Eccl. капі́тула *f.*, нара́да вышэ́йшых духаўнікоў. 3. Figur. старо́нка *f.*, пэры́яд -у *m.*: ***new chapter in history*** но́вая старо́нка гісто́рыі
– v. дзялі́ць на разьдзе́лы

**chapter and verse** 1. разьдзе́л і верш (*Бі́бліі*). 2. Figur. дакла́дная, падрабя́зная інфарма́цыя

**char I** [tʃɑ:r] – v. спа́льваць (*на вуго́льле*). 2. абпа́льваць, абву́гліваць, абсма́льваць. 3. абгарэ́ць, абсмалі́цца, абву́глі́цца: ***charred*** абгарэ́лы, абсма́лены, абву́глены
– n. 1. абгарэ́лае, абпа́ленае рэ́чыва. 2. вуго́льле *n.*

**char II** [tʃɑ:r] – n., esp. Brit. 1. служа́нка *f.*, ха́тняя рабо́тніца. 2. падзённая ха́тняя рабо́та
– v.падзёньнічаць; прыслуго́ўваць

**char III** [tʃɑ:r] n. ручáйная стро́нга

**character** [ˈkærəktər] n.1. хара́ктар -у *m.*; нату́ра *f.*: ***a man of character*** чалаве́к з хара́ктарам; ***a shallow, changeable character*** плы́ткі, нястáлы хара́ктар. 2. мара́льная сі́ла, самаапанава́насьць, сумле́ннасьць *f.* 3. рэпута́цыя *f.*; до́брая рэпута́цыя. 4. а) ры́са, асаблі́васьць *f.* 5. пазы́цыя, я́касьць, фу́нкцыя *f.*: ***to serve in the character of secretary*** выко́нваць фу́нкцыю сакратара́. 6. геро́й -я *m.*, ро́ля *f.*; дзе́йная асо́ба; акто́р -а *m.*, акто́рка *f.* 7. а) асо́ба -ы *m. & f.*, індывідуа́льнасьць *f.* б) дзіва́к -á *m.*,тып -а *m.*: ***a bad character*** цёмны тып. 8. знак -а *m.*, лі́тара, лі́чба *f.*; гіерогліф -а *m.* 9. по́чырк -у *m.* 10. сты́лі дру́ку *або́* пісьма́ (*напр. кіры́ліца, лаці́нка*). 11. а) характары́стыка *f.* б) пісьмо́вая рэкамэ́ндацыя
• ***in character*** натура́льна, звыча́йна, адпаве́дна
• ***out of character*** незвыча́йна, неадпаве́дна

**characteristic** [ˌkærəktəˈrɪstɪk] – adj. характэ́рны
– n. характэ́рная ры́са, уласьці́васьць, асаблі́васьць *f.*; хара́ктар -у *m.*: ***characteristic of the locality*** хара́ктар мясцова́сьці

**characterize** [ˈkærəktəraɪz] – v.t. характарызава́ць, апі́сваць, клясыфікава́ць
– v.i. характарызава́цца, адзнача́цца

**characterless** [ˈkærəktərləs] adj. 1. бесхара́ктарны, слабы́. 2. які́ нічы́м не адзнача́ецца, нецікáвы

**charcoal** [ˈtʃɑ:rkoʊl] – n.1. ву́галь -ю *m.* (*драўня́ны*), *pl.* ву́глі, ву́галі, *coll.* вуго́льле *n.* 2. ву́гальны алаві́к, ву́галь для малява́ньня
– v.i. пі́саць *або́* малява́ць ву́галем

**charge** [tʃɑ:rdʒ] – v.t. 1. зараджа́ць (*гарма́ту, батарэ́ю*). 2. даруча́ць; абавя́зваць. 3. цані́ць; ацэ́ньваць: ***What do you charge for it?*** Ко́лькі Вы за гэ́та про́сіце? Ко́лькі гэ́та кашту́е? 4. дава́ць указа́ньні; зага́дваць, патрабава́ць, вымага́ць; дамага́цца: ***He charged us to keep the plan secret*** Ён загада́ў нам трыма́ць плян у сакрэ́це. 5. Milit. напада́ць, атакава́ць. 6. а) запі́сваць у доўг. б) даваць на паве́р: ***Charge it please!*** Калі́ ла́ска, на паве́р! 7. абвінава́чваць, вінава́ціць: ***to charge with murder*** абвінава́ціць у забо́йстве. 8. налад́оўваць
– n. 1. зара́д -у *m.*; набо́й -ю *m.* 2. а) зада́ньне *n.*; абавя́зак -ку *m.*, адка́знасьць *f.*: ***to be in charge*** быць адка́зным. б) цяжа́р -у *m.*: ***to be a charge on someone*** быць цяжа́рам для *каго́*. 3. зага́д -у *m.*, прадпіса́ньне *n.* 4. дагля́д-у *m.*, апе́ка *f.* 5. абвінава́чаньне *n.* 6. кошт -у *m.*, выда́ткі *pl.* 7. Milit. ата́ка *f.*
• ***charge off*** а) сьпіса́ць як згу́бу. б) сьпіса́ць на не́кага, на не́шта. в) ху́тка паімча́цца
• ***charge oneself with*** набра́ць на сябе́
• ***charge up*** сьпіса́ць: ***I charged it up to inexperience*** Я сьпіса́ў гэ́та на неспрактыкава́насьць

**chariot** [ˈtʃæriət] n. 1.калясьні́ца *f.* 2. карэ́та *f.* 3. Sl. старо́е, вялі́кае а́ўта
**charitable** [ˈtʃærətəbəl] adj. 1. міласэ́рны, літасьці́вы. 2. дабрачы́нны. 3. памяркоўны, пабла́жлівы
**charity** [ˈtʃærəti] n., pl. **-ties** 1. дапамо́га бе́дным, мі́ласьць *f.* 2. міласэ́рнасьць *n.*, мі́ласьцівасьць. 3. а) дабрачы́ннасьць, дабрадзе́йнасьць *f.* б) дабрачы́нная ўстано́ва: ***Charity begins at home*** Дабрачы́ннасьць трэ́ба пачына́ць ад сябе́
**charlatan** [ˈʃɑ:rlətən] – n. шарлата́н -а, знаха́р -а́ *m.*
– adj. шарлата́нскі, знаха́рскі
**charm** [tʃɑ:rm] – n. 1. чаро́ўнасьць, прыва́бнасьць *f.*, шарм -у *m.*; уце́хі *pl.*: ***charms of country life*** прыва́бнасьць жыцьця́ на вёсцы. 2. гра́цыя, прые́мнасьць *f.* 3. мініяту́рная падве́сачка (*на бранзале́це*). 4. а) ча́ры *pl.*, замо́вы *pl.* (*знаха́рскія*). б) амуле́т -а *m.*
– v. 1. чарава́ць; захапля́ць, пры́наджваць. 2. зачаро́ўваць, кі́даць ча́ры, вядзьма́рыць
**charming** [ˈtʃɑ:rmɪŋ] adj. пана́дны, чаро́ўны, мі́лы
**chart** [tʃɑ:rt] – n. 1. а) марска́я ка́рта. б) мэтэаралягі́чная ка́рта. 2.таблі́ца *f.*, сьпі́с -у *m.* 3. гра́фік -у *m.*: ***a temperature chart*** гра́фік тэмпэрату́раў
– v.t. 1. рабі́ць ка́рту, таблі́цу, гра́фік. 2. дакла́дна плянава́ць
**charter** [ˈtʃɑ:rtər] – n. 1. ка́рта *f.*; гра́мата *f.*; стату́т -у *m.*; канстыту́цыя *f.*; прыві́лей -ю *m.* 2. ***immunity charter*** прыві́лейная гра́мата. 3. а) наня́ты аўто́бус, самалёт, карабе́ль. б) кантра́кт на наём
– v. 1. засно́ўваць, рэгістрава́ць (*арганіза́цыю, фі́рму*). 2. найма́ць (*аўто́бус, самалёт*)
**charter member** ся́бра-заснава́льнік (*тава́рыства, клю́бу*)
**charwoman** [ˈtʃɑ:rˌwʊmən] n., pl. **-men** падзёншчыца, прыбіра́льніца *f.*
**chary** [ˈtʃeri] adj. 1. асьцяро́жны. 2. сарамлі́вы. 3. скупы́, ашча́дны
**chase I** [tʃeɪs] – v.t. 1. гнацíь (-ца);ганя́цца. 2. прагання́ць
– n. 1. паго́ня *f.* 2. паляўва́ньне *n.*, ло́вы *pl.* 3. то́е, за чым го́няцца, здабы́ча *f.* 4. го́нка *f.* 5. тэрыто́рыя для паляўва́ньня
• ***give chase*** гна́цца за *кім*, паляўва́ць
**chase II** [ tʃeɪs] v. гравірава́ць на мэта́ле, аздабля́ць рэлье́фам
**chase III** [tʃeɪs] n. жалабо́к -ка́ *m.*, паглыбле́ньне *n.*; разо́ра *f.*; роў -ву *m.*
**chasm** [ˈkæzəm] n. 1. про́рва *f.*; расшчэ́піна, адту́ліна *f.*; прало́м -у *m.* 2. разыхо́джаньне ў погля́дах, прага́л -у *m.* 3. перары́ў -ву *m.*, прага́л -у *m.*
**chaste** [tʃeɪst] adj. 1. цно́тны, цнатлі́вы, нявí́нны; чы́сты, чэ́сны. 2. прысто́йны, сьці́плы. 3. Figur. про́сты (*у сты́лі, гу́сьце*), няшма́т аздо́блены
**chastise** [tʃæˈstaɪz] v.t. 1. кара́ць. 2. крытыкава́ць
**chastity** [ˈtʃæstəti] n. 1. няві́ннасьць, цнатлі́васьць, цно́та *f.*; чысьціня́ *f.* 2. прысто́йнасьць, сьці́пласьць *f.* 3. Figur. чысьціня́ (*сты́лю або́ гу́сту*)
**chat** [tʃæt] – n. сябро́ўская гу́тарка, гамана́ *f.*, балбатня́ *f.*
– v. гавары́ць, гамані́ць
**chatter** [ˈtʃætər] – v.i, v.t. 1. балбата́ць, трашчэ́ць, мало́ць языко́м. 2. шчабята́ць. 3. ля́скаць (*зуба́мі*)
– n. 1. балбатня́ *f.* 2. шчэ́бет -у *m.* (*пту́шкі, дзіця́ці*), шчабята́ньне *n.*
**chatterbox** [ˈtʃætərbɑ:ks] n. дзіця́-шчабяту́н; балбату́н -а́ *m.* (*пра даро́слага*), лапату́н -а́ *m.*
**chatty** [ˈtʃæti] adj. гаваркі́, балбатлі́вы: ***a chatty conversation*** сябро́ўскія гу́таркі, балбатня́
**chauffeur** [ʃoʊˈfɜ:r] n. шафёр -а *m.*
**chauvinism** [ˈʃoʊvəˌnɪzəm] n. шаві́нізм -у *m.*
**chauvinist** [ˈʃoʊvənɪst] n. шаві́ніст -а *m.*, шаві́ністка *f.*
**chauvinistic** [ˌʃoʊvəˈnɪstɪk] n. шавіністы́чны
**cheap** [tʃi:p] – adj.1. та́нны. 2. малава́ртасны; дрэ́нны, мізэ́рны; нікчэ́мны

– adv. та́нна
• ***feel cheap*** чу́цца засаро́мленым
• ***hold cheap*** не шанава́ць, грэ́баваць
• ***on the cheap*** та́нна

**cheaply** [ˈtʃi:pli] adv. та́нна, та́нным ко́штам

**cheat** [tʃi:t] – v. ашу́кваць, абду́рваць: ***to cheat out of five dollars*** абдуры́ць на пяць даля́раў
– n. 1. махля́р -а́ *m.*, ашука́н|ец -ца *m.*; круц|е́ль -ля́ *m.*, круце́лька *f.* 2. махля́рства, ашука́нства, круце́льства *n.*

**check** [tʃek] – v.1.раптóўна спыня́ць, затры́мваць. 2. паўстры́мваць (*гнеў, сьмех*). 3. адбіва́ць ата́ку (*во́рага*). 4. параўно́ўваць, спраўджа́ць. 5. здава́ць у разьдзява́льні (*паліто́, капялю́ш*). 6. шахава́ць (*у ша́хматах*)
– n. 1. раху́нак, вы́стаўлены афіцыя́нтам. 2. чэк -у (*ба́нкавы*) *m.*: ***to draw a check*** выпі́сваць, выстаўля́ць чэк; ***to cash a check*** вы́мяняць чэк. 3. перашко́да, замі́нка *f.*; кантро́л|ь -ю *m.*, нагля́д -у *m.*; абмежава́ньне *n.*: ***to keep a check on the child*** трыма́ць дзіця́ пад нагля́дам. 4. спраўджа́ньне, праве́рка *n.* 5. бага́жная кві́та́нцыя, кантрама́рка *f.* (*у тэа́тры, кіно́*), нумаро́к (*у разьдзява́льні*). 6. затры́мка *f.* 7. кра́ткі *pl.*, ткані́на ў кра́ткі. 8. шах -у *m.* (*у ша́хматах*)
• ***check in*** а) зарэгістрава́цца. б) Sl. паме́рці
• ***check off*** адзна́чыць птýшачкай
• ***check out*** а) вы́пісацца з гатэ́лю. б) праве́рыць, спра́ўдзіць. в) Sl. паме́рці
• ***check up*** праве́рыць, спра́ўдзіць
• ***in check*** пад кантро́лем

**check book** n. or **cheque book** чэ́кавая кні́жка

**checked** [tʃekt] adj. 1. у кра́тк і (*напр. ткані́на*). 2. Gram. а) закры́ты (*пра склад*). б) у закры́тым скла́дзе (*пра гало́сны*)

**checker** [ˈtʃekər] n.1. кантралёр -а *m.*, кантралёрка *f.* 2. гардэро́бшчык -а *m.*, гардэро́бшчыца *f.* 3. касі́р у кра́ме з самаабслу́гай

**checkerboard** [ˈtʃekərbɔ:rd] n. ша́хматная до́шка

**checkered** [ˈtʃekərd] adj. *такс.* **chequered** 1. клéтчаты. 2. Figur. зьме́нлівы, разнаста́йны, пяр́эсты: ***a checkered career*** пярэ́стая кар'е́ра

**checkers** [ˈtʃekərz] n. *такс.* **chequers** ша́шкі *pl.* (*гульня́*)

**checking account** ба́нкавы раху́нак для чэ́каў

**checkmate** [ˈtʃekmeɪt] – v. 1. паста́віць ма́т (*у ша́хматах*). 2. ца́лкам перамагчы́; паралі́жава́ць працíўніка
– n. мат -у *m.* (*у ша́хматах*). 2. по́ўная пара́за

**checkoff** [ˈtʃekɔ:f] n. 1. гардэро́б -у *m.* (*напр. у тэа́тры*). 2. адця́гваньне прафсаю́зных скла́дак праз працада́ўцу

**checkout** [ˈtʃekaʊt] n.1. праве́рка *f.* 2. пла́та за тава́р пры ка́се

**checkout counter** ка́савы прыла́вак

**checkroom** [ˈtʃekru:m] n. ка́мэра для перахава́ньня (*на ста́нцыі, у гатэ́лі*), багажо́ўня *f.*

**checkup** [ˈtʃekʌp] – n.1. ле́карскі агля́д. 2. праве́рка *f.*, кантро́л|ь -ю *m.*, рэві́зія *f.*
– adj. спраўджа́льны, праве́рачны, кантро́льны, рэвізі́йны: ***checkup committee*** рэвізі́йная камі́сія

**cheek** [tʃi:k] n.1. шчака́ *f.* 2. Informal наха́бства *n.*: ***to have the cheek to say that to me*** мець наха́бства мне гэ́та сказа́ць

**cheekbone** [ˈtʃi:kboʊn] n. ску́ла *f.*: ***with high cheekbones*** скула́сты

**cheeky** [ˈtʃi:ki] adj. наха́бны, бессаро́мны

**cheep** [tʃi:p] – v. пішчэ́ць
– n. піск -у *m.* (*птушаня́ці, мы́шы*)

**cheeper** [ˈtʃi:pər] n. 1. піску́н -а́ *m.*, піску́ха *f.* (*пра птушаня́, мы́ш*). 2. птушаня́ *n.*

**cheer** [tʃɪr] – n. 1. во́кліч заахво́чаньня. 2. до́бры настро́й: ***to be of good cheer*** быць у до́брым настро́і. 3. ве-

сялóсьць, бадзёрасьць, задавóленасьць, рáдасьць *f.*
– v. 1. падбадзёрваць, заахвóчваць, весялíць; разьвесялíць, пацяшáць. 2. вітáць, заахвóчваць прыязнымі вóклічамі
• ***cheer up*** падбадзёрваць, разьвесялíць; суцяшáць, усьцéшваць, падтрымліваць на дýху
• ***cheer up!*** не сумýй!

**cheerful** [ˈtʃɪrfəl] adj. 1. вясёлы, бадзёры, задавóлены, у дóбрым настрóі. 2. прыéмны, сьвéтлы (*пакóй*). 3. ахвóчы, шчóдры

**cheerfully** [ˈtʃɪrfəli] adv. 1. вясёла, бадзёра. 2. ахвóча, з задавальнéньнем

**cheerless** [ˈtʃɪrləs] adj. 1. маркóтны, тужлíвы, сýмны. 2. змрóчны, цёмны, панýры, хмýрны, непрывéтны: ***cheerless landscape*** панýры, непрывéтны краявíд

**cheerlessness** [ˈtʃɪrləsnəs] n. 1. маркóта *f.*, сум -у *m.* 2. панýрасьць *f.*

**cheery** [ˈtʃɪri] adj. **-rier, -riest** вясёлы, бадзёры; прыéмны; сьвéтлы; рáдасны

**cheese** [tʃi:z] n. сыр -у *m.*

**cheeseburger** [ˈtʃi:zˌbɜ:rgər] n. чызбургер -а *m.*

**cheesecake** or **cheesecake** [ˈtʃi:zkeɪk] n. сырны пірóг *абó* торт

**cheesemonger** [ˈtʃi:zmʌŋər] n. гандляр сырáмі

**cheesecloth** [ˈtʃi:zklɔ:θ] n. мáрля *f.*

**chemical** [ˈkemɪkəl] – adj. хімíчны: ***chemical research*** хімíчныя дóсьледы; ***a chemical formula*** хімíчная фóрмула
– n. **chemicals** 1. хімікáліі *pl.* 2. Sl. наркóтыкі *pl.*

**chemical bomb** хімíчная бóмба

**chemical warfare** хімíчная вайнá

**chemise** [ʃəˈmi:z] n. 1. жанóчая кашýлька. 2. шырóкая сукéнка бяз пóяса. 3. блюза *f.*

**chemist** [ˈkemɪst] n. 1. хíмік -а *m.* 2. Brit. аптэкар -а *m.* 3. Obsol. альхíмік -а *m.*

**chemistry** [ˈkemɪstri] n., pl. **-tries** хíмія *f.*

**chemotherapy** [ˌki:moʊˈθerəpi] n. хіматэрáпія *f.*

**cheque** or **check** [tʃek] – n. чэк -а *m.* (*бáнкаўскі*)
– adj. чэкавы: ***cheque book*** чэкавая кніжка

**cherish** [ˈtʃerɪʃ] v.t. 1. пéсьціць, мілавáць, пяшчóтна любíць. 2. трымáць, хавáць у сэрцы, пáмяці: ***to cherish memories*** хавáць у сэрцы ўспамíны

**cherry** [ˈtʃeri] – n., pl.**-ries** 1. вíшня *f.* (*плод, дрэва і матэрыял*). 2. вішнёвы кóлер
– adj. вішнёвы, а) зь вішнёвага дрэва. б) вішнёвага кóлеру

**cherry brandy** вішнёўка *f.*, вішнёвы лікёр

**cherry pie** 1. пірóг зь вíшнямі. 2. Bot. гэліятрóп -у *m.* (*дэкаратыўная расьлíна*)

**cherry stone** вішнёвая кóстка

**cherub** [ˈtʃerəb] n., pl. **cherubim** херувíм -а *m.*

**chess** [tʃes] n. шáхматы *pl. only*: ***to play chess*** гуляць у шáхматы

**chessboard** [ˈtʃesbɔ:rd] n. шáхматная дóшка

**chessman** [ˈtʃesmæn] n., pl. **-men** шáхматная фігýра

**chest** [tʃest] n. 1. грýдзі *pl. only*, грýдная клéтка. 2. кýфар -ра *m.*, скрыня, скрынка *f.*: ***a linen chest*** кýфар на хýсьце; ***a tool chest*** скрынка на прылады. 3. камóда *f.*: ***a chest of drawers*** камóда з шуфлядамі. 4. кáса *f.*; казнá *f.*

**chesterfield** [ˈtʃestərfi:ld] n.1. канáпа *f.* 2. род мужчынскага плашчá

**chestnut** [ˈtʃesnʌt] – n. 1. каштáн -а *m.* 2. каштáнавы кóлер
– adj. каштáнавы, чырванáва-рудыі

**chew** [tʃu:] – v. 1. жваць, жавáць: ***to chew the cud*** жваць жвáчку. 2. Figur. перажóўваць (*нéйкую спрáву*), абдýмваць, раздумóўваць. 3. жваць табáку
– n. 1. жýйка, жвáка, жвáчка *f.*; жавáньне *n.* 2. табáка *абó* гýмка для жавáньня

**chewer** [ˈtʃu:ər] n. 1. той, хто жве гу́мку, таба́ку, е́жу. 2. жва́чная жывёла (*каро́ва, аве́чка, каза́*)

**chewing gum** жава́льная гу́мка, Informal жу́йка *f.*

**chic** [ʃi:k] – n. шык -у *m.*, элега́нтны стыль
– adj. шыко́ўны, стылёвы

**chicanery** [ʃɪˈkeɪnəri] n., pl. **-eries** махля́рства, круце́льства, ашука́нства *n.*; хі́трыкі, вы́круты *pl.*: ***a legal chicanery*** вы́круты зако́ну

**chick** [tʃɪk] n.1.куранё, кураня́ *n.* 2. птушанё *n.* 3. дзіця́ *n.* 4. Sl. дзяўчы́на *f.*

**chickadee** [ˈtʃɪkədi:] n. род сіні́цы (*пту́шка*)

**chicken** [ˈtʃɪkɪn] – n. 1. ку́рыца *f.* 2. кура́ціна *f.* 3. малада́я пту́шка. 4. Sl. малада́я жанчы́на *або́* дзяўчы́на. 5. Sl. баягу́з -а *m.*
– adj. 1. куры́ны. 2. малады́: ***she is no spring chicken*** яна́ не малада́я. 3. Sl. баязьлі́вы
• ***chicken out*** збая́цца

**chicken feed** 1. корм для курэ́й. 2. Sl. нязна́чная су́ма

**chicken hawk** я́страб -а, шуля́к -а́ *m.*

**chicken pox** ве́траная во́спа, вятра́нка *f.*

**chicken-hearted** [ˌtʃɪkɪnˈhɑ:rtəd] adj. баязьлі́вы, палахлі́вы, нясьме́лы; маладу́шны

**chicory** [ˈtʃɪkəri] n., pl. **-ries,** Bot. цыко́рыя *f.*

**chide** [tʃaɪd] v., **chided** or **chid** сварыц́ца, дакара́ць

**chief** [tʃi:f] – n. шэф -а *m.*, галава́ *f.*; правады́р -а́, кіраўні́к -а́, лі́дэр -а *m.*
– adj. гало́ўны, вярхо́ўны, найвышэ́йшы, найважне́йшы; вяду́чы, кіру́ючы; асно́ўны: ***chief advantage*** гало́ўная перава́га; ***chief thing to do*** гало́ўнае, што трэ́ба зрабі́ць
• ***in chief*** на чале́, гало́ўны, вярхо́ўны: ***commander in chief*** гало́ўнакама́ндуючы
• ***tribal chief*** правады́р пле́мя

**chief executive** дырэ́ктар, прэзыдэ́нт (*кампа́ніі*)

**Chief Executive** 1. Прэзыдэ́нт Злу́чаных Шта́таў Амэ́рыкі. 2. галава́ ўра́ду

**chiefly** [ˈtʃi:fli] adv. 1. гало́ўна, гало́ўным чы́нам; перава́жна, асно́ўна. 2. перш за ўсё, у пе́ршую чаргу́

**chieftain** [ˈtʃi:ftən] n.1. правады́р пле́мя *або́* ро́ду. 2. лі́дэр -а *m.*; атама́н -а *m.*

**child** [tʃaɪld] n., pl. **children** дзіця́, дзіцё *n., pl.* дзе́ці, *dim.* дзіця́тка *n.*, дзе́тк|а -і *m. & f.*: ***with child*** у цяжку́, цяжа́рная; ***children of Charnobyl*** дзе́ці Чарно́быля

**childbirth** [ˈtʃaɪldbɜ:rθ] n. ро́ды *pl. only*

**childhood** [ˈtʃaɪldhʊd] n.мале́нства, дзяці́нства *n.*: ***from childhood*** зма́лку

**childish** [ˈtʃaɪldɪʃ] adj. 1. дзіця́чы. 2. дзяці́нны, як дзіця́, няста́лы, непава́жны. 3. наі́ўны, неразу́мны: ***childish question*** наі́ўнае пыта́ньне

**childishly** [ˈtʃaɪldɪʃli] adv. 1. па-дзіця́чаму. 2. наі́ўна

**childless** [ˈtʃaɪldləs] adj. бязьдзе́тны

**childlike** [ˈtʃaɪldlaɪk] adj. нязві́нны, шчы́ры, про́сты, як дзіця́

**child's play** лёгкае зада́ньне, нява́жная спра́ва; драбні́ца *f.*, глу́пства *n.*

**chili (pepper)** [ˈtʃɪli] пе́рац чы́лі, струччко́вы пе́рац

**chill** [tʃɪl] – n. 1. хо́лад -у *m.* 2. засту́да *f.*; дры́жыкі ад хо́ладу. 3. хало́днасьць, абыя́кавасьць *f.*: ***there is a chill in her voice*** у яе́ го́ласе адчува́ецца хало́днасьць. 4. Figur. прыгне́чанасьць, зьнеахво́чанасьць *f.*
– adj. 1. сьцюдзёны. 2. хало́дны, няве́тлы. 3. гнятлі́вы, які́ адбіва́е ахво́ту
– v. 1. астуджа́ць; ахало́джвац|ь (-ца). 2. ме́рзнуць, зя́бнуць. 3. прыгнята́ць, адбіва́ць ахво́ту
• ***Chill out!*** Супако́йся!

**chilly** [ˈtʃɪli] adj. 1. хало́дны. 2. Figur. хало́дны, няве́тлы: ***a chilly greeting*** хало́днае прывіта́ньне

**chime** [tʃaɪm] – n. 1. звон, перазво́н -у *m.* 2. звон гадзі́ньніка. 3. сугу́чнасьць; сула́днасьць *f.*; гармо́нія *f.*
– v.i., v.t. 1. звані́ць, вызво́ньваць. 2. быць сугу́чным, быць сула́дным. 3.

выбіва́ць гадзі́ны. 4. згаджа́цца, гарманізава́ць

• ***chime in,*** Informal уме́швацца ў гу́тарку

**chimney** [ˈtʃɪmni] n., pl. **-neys** 1. ко́мін -а *m.* 2. шкло ад ля́мпы

**chimney sweep** а) каміна́р -а́ *m.* б) памяло́ для чышчэ́ньня ко́мінаў

**chimp, chimpanzee** [tʃɪmp] n. шымпанзэ́ *m., indecl.*

**chin** [tʃɪn] n. падбаро́д|ак -ка *m.*, падбаро́дзьдзе *n.*, барада́ *f.*

• ***keep one's chin up*** трыма́ць высо́ка галаву́, не паддава́цца ро́спачы

**china** [ˈtʃaɪnə] – n. 1. парцаля́на *f.*, фарфо́р -у *m.* 2. судзьдзё *n.*, по́суд -у *f.*

– adj. парцаля́навы: ***china clay*** парцаля́навая глі́на, каалі́н -у *m.*

**Chinaman** [ˈtʃaɪnəmən] n., pl. **-men** 1. кіта́|ец -йца *m.* (*у абра́зьлівым ужы́тку*). 2. асо́ба кіта́йскага пахо́джаньня

**Chinatown** [ˈtʃaɪnətaʊn] n. кіта́йскі кварта́л

**chinaware** [ˈtʃaɪnəwer] n. парцаля́на, парцаля́навыя вы́рабы

**chinchilla** [tʃɪnˈtʃɪlə] n. шыншы́ла *f.*

**Chinese** [ˌtʃaɪˈni:z] – n. 1. кіта́|ец -йца *m.*, кіта́йка *f.* 2. кіта́йская мо́ва

– adj. кіта́йскі

**chink I** [tʃɪŋk] – n. 1. шчы́ліна, расшчэ́піна. 2. слабо́е ме́сца, слабы́ бок

– v.t. зама́зваць, затыка́ць шчы́ліны

– v.i. трэ́скацца, расшчэ́пвацца

**chink II** [tʃɪŋk] – n. 1. бра́згат -у *m.* (*жале́за, манэ́ты*). 2. Informal манэ́ты; гато́ўка *f.*

– v.i. бра́згаць, пабра́згваць

**chintz** [tʃɪnts] n. парка́л|ь -ю *m.*

**chip** [tʃɪp] – n. 1. трэ́ска *f.*; стру́жка *f.*, абло́мак, аско́л|ак -ка *m.*, адбі́ты кава́лак. 2. шчарбі́на, дра́піна *f.*: ***the dish has a chip*** тале́рка пашчэ́рбленая. 3. чып -а *m.*, мікрасхе́ма *f.*

– v. 1. струга́ць, абчэ́сваць, абсклюдо́ўваць, адко́лваць. 2. адбіва́ць, вышчэ́рбваць. 3. лу́шчыцца

• ***chip in,*** Informal а) далучы́цца да скла́дчыны. б) умяша́цца ў гу́тарку. в) зрабі́ць ста́ўку (*у по́керы*)

• ***chip off the old block*** вы́літы ба́цька

• ***have a chip on the shoulder*** а) быць задзі́рам. б) ху́тка крыўдзіцца. в) быць ду́мным

• ***in the chips,*** Sl. бага́ты, замо́жны

• ***potato chips*** сма́жаныя скрылёчкі бу́льбы

**chipmunk** [ˈtʃɪpmʌŋk] n., Zool. бурунду́к -а́ *m.*

**chipper** [ˈtʃɪpər] – adj. вясёлы, у до́брым настро́і; бадзёры

– n. балбата́ньне, шчабята́ньне *n.*

**chiropractics** [ˈkaɪrəˌpræktɪks] n. хірапра́ктыка *f.*

**chiropractor** [ˈkaɪrəˌpræktər] n. хірапра́ктык -а *m. & f.*

**chirp** [tʃɜ:rp] – v. 1. чыры́каць; цьві́ркаць. 2. шчабята́ць

– n. чыры́каньне, цьві́рканьне *n.*, шчэ́бет -у *m.*

**chirr** [tʃɜ:r] – v.i. страката́ць

– n. страката́ньне *n.*, стро́кат -у *m.*, стракатня́ *f.*

**chisel** [ˈtʃɪzəl] – n. 1. раз|е́ц -ца́ *m.* 2. до́лата, до́латца *n.*, стаме́ска *f.*, зубі́ла *n.*, чака́н -а́ *m.*

– v.t. 1. выраза́ць, высяка́ць, рабі́ць скульпту́ру. 2. выдо́ўбваць, чака́ніць. 3. Sl. ашу́кваць, махлява́ць, дуры́ць

**chiseled** [ˈtʃɪzəld] adj. 1. вы́сечаны. 2. вы́тачаны: ***finely chiseled facial features*** выра́зныя ры́сы тва́ру

**chit-chat** [ˈtʃɪttʃæt] n. сябро́ўская гу́тарка, балбатня́ *f.*

**chivalrous** [ˈʃɪvəlrəs] adj. 1. ры́царскі. 2. галя́нтны

**chivalry** [ˈʃɪvəlri] n. 1. ры́царскасьць *f.*; ры́царства *n.* 2. галя́нтнасьць *f.*

**chive** [tʃaɪv] n. зялёная цыбу́ля, пёры цыбу́лі

**chlorate** [ˈklɔ:reɪt] n., Chem. хляра́т -у *m.*

**chloride** [ˈklɔ:raɪd] n., Chem. хляры́д -у *m.*

**chlorinate** [ˈklɔ:rɪneɪt] v.t. хлёрыць, падхлёрваць: ***to chlorinate the swimming pool*** падхлёрваць басэ́йн

**coiffeur** [kwɑ:ˈfɜ:r] n. цыру́льнік -а *m.*, цыру́льніца *f.*

**coiffure** [kwɑ:ˈfjʊr] n. 1. фрызу́ра, пры-чо́ска *f.* 2. галаўны́ ўбо́р

**coil** [kɔɪl] – n. 1. скру́т|ак -ка *m.*, віт|о́к -ка́ *m.* 2. драцяна́я сьпіра́ль. 3. Electr. шпу́ля, шпу́лька *f.*
– v.t. скру́чваць ві́ткамі, сьпіра́лямі

**coin** [kɔɪn] – n. манэ́та *f.*
– v.t. 1. чака́ніць (*манэ́ту*). 2. ства-ра́ць; назапа́шваць: ***to coin a phrase*** ствары́ць тра́пны вы́раз
• ***coin money*** разбагаце́ць, мець да-хо́днае прадпрые́мства
• ***pay back in his own coin*** адплаці́ць той са́май манэ́тай
• ***the other side of the coin*** адваро́т-ны бок манэ́ты

**coinage** [ˈkɔɪnɪdʒ] n. 1. чака́нка манэ́таў. 2. манэ́ты *pl.* 3. манэ́тная сыстэ́ма. 4. а) ствара́ньне *n.* б) но́вае сло́ва, нава-тво́р -у *m.*: ***a word of his own coinage*** ство́ранае ім сло́ва

**coincide** [ˌkoʊɪnˈsaɪd] v.i. 1. супада́ць, ад-быва́цца ў ты́м са́мым ча́се. 2. адпа-вяда́ць пакла́дна; згаджа́цца

**coincidence** [koʊˈɪnsɪdəns] n. 1. супа-дзе́ньне *n.*, зьбег абста́вінаў. 2. да-кла́дная адпаве́днасьць, зго́днасьць *f.*

**coincident** [koʊˈɪnsɪdənt] adj. 1. які́ супа-да́е. 2. які́ адпавяда́е

**coincidental** [koʊˌɪnsəˈdentəl] adj. 1. вы-падко́вы. 2. супада́льны

**coiner** [ˈkɔɪnər] n. 1. а) чака́ншчык ма-нэ́таў. б) фальшы́ваманэ́тчык. 2. ствара́льнік, вынахо́днік -а *m.*

**coinheritance** [koʊɪnˈherɪtəns] n. 1. су-по́льнае пра́ва на спа́дчыну. 2. су-по́льная спа́дчына

**coke I** [koʊk] n. кокс -у *m.* (*ву́галь*)

**coke II** [koʊk] n., Sl. какаі́н -у *m.*

**colander** [ˈkʌləndər] n. друшля́к-а́ *m.*, цадзі́лка *f.*

**colchicum** [ˈkɑ:ltʃɪkəm] n., Bot. 1. позна-цьве́т -у *m.* 2. лек з познацьве́ту

**cold** [koʊld] – adj. 1. хало́дны; сьцюдзё-ны: ***I am cold*** Мне хало́дна; ***This coffee is cold*** Гэ́тая ка́ва хало́дная; ***to get cold*** астыва́ць; ***to get colder*** ха-ладне́ць. 2. хало́дны, ня́чулы, беспа-чуцьцёвы: ***a cold greeting*** хало́днае прывіта́ньне. 3. абыя́кавы, без запа́-лу: ***a cold nature*** абыя́кавая нату́ра. 4. бесстаро́нны, аб'екты́ўны. 5. сла-бы́, кво́лы: ***cold comfort*** слаба́я ўце́-ха; ***cold scent of the fox*** ледзь чу́тны лісі́ны пах. 6. хало́дны (*пра ко́лер*)
– n. 1. хо́лад -у *m.*, сьцю́жа *f.*; стынь *f.* 2. засту́да *f.*; ка́тар -у *m.*
• ***catch cold*** застудзі́цца
• ***in cold blood*** халаднакро́ўна
• ***in the cold*** зусі́м адзі́н, занядба́ны, закі́нуты
• ***pour/throw cold water on*** лі́нуць вя-дро́ хало́днай вады́, ахаладзі́ць за-па́л, ацьверазі́ць, зьнеахво́ціць

**cold-blooded** [ˌkoʊldˈblʌdɪd] adj. 1. ха-ло́днакро́ўны (*як жа́ба, вужа́кі*). 2. зя́бкі, адчува́льны да хо́ладу. 3. лю́-ты, без чуцьця́, сухі́

**cold cuts** пара́заныя мясны́я вы́рабы, каўба́сы, хало́дныя заку́скі

**cold fact,** Informal абсалю́тны, аб'ек-ты́ўны факт

**cold-hearted** [ˌkoʊldˈhɑ:rtəd] adj. хало́д-ны, ня́чулы; бяз сэ́рца, няве́тлы

**coldly** [ˈkoʊldli] adv. сьцюдзёна, хало́д-на; су́ха, няве́тла; без энтузія́зму

**coldness** [ˈkoʊldnəs] n. 1. хо́лад -у *m.* 2. хало́днасьць, сьцюдзёнасьць *f.*; ня-ве́тласьць *f.*; абыя́кавасьць *f.*

**cold storage** 1. хало́днае ме́сца, хала-дзі́льнік. 2. перахава́ньне ў хало́д-ным ме́сцы

**cole** [koʊl] n. кальра́бі *indecl., f.*; капу́ста *f.*

**coleslaw** [ˈkoʊlslɔ:] n. капу́сны сала́т

**colic** [ˈkɑ:lɪk] n. ко́лікі *pl.*, рэ́зкі боль (*у жываце́*)

**coliseum** [ˌkɑ:ləˈsi:əm] n. стадыён -у *m.*, спарто́вы буды́нак

**collaborate** [kəˈlæbəreɪt] v.i. 1. супрацо́ў-нічаць. 2. супрацо́ўнічаць з во́рагам

**collaboration** [kəˌlæbəˈreɪʃən] n. 1. су-працо́ўніцтва *n.* 2. калябара́цыя *f.* (*з во́рагам*)

**collaborator** [kəˈlæbəreɪtər] n. 1. супрацо́ўнік -а *m.*, супрацо́ўніца *f.* 2. калябара́нт -а *m.*, калябара́нтка *f.*

**collapse** [kəˈlæps] – v. 1. a) права́львацца; зава́львацца. б) ло́паць (*пра балён*). 2. склада́цца, склада́ць (*крэ́сла*). 3. зало́мвацца; занепада́ць (*пра здаро́ўе*), зрыва́цца (*пра перамо́вы*)
– n. 1. разва́л -у *m.;* зава́льваньне *n.* (*мо́сту, пля́наў*). 2. упа́д|ак-ку *m.* (*сі́лаў, прадпрые́мства*). 3. залама́ньне *n.*, фізы́чнае *або́* нэрво́вае зьнясі́леньне

**collapsible** [kəˈlæpsəbəl] adj. 1. склада́ны, раскладны́ (*крэ́сла*): ***collapsible baby stroller*** склада́ны дзіця́чы вазо́к. 2. збо́рны. 3. адкідны́: ***collapsible seat*** адкідно́е сядзе́ньне

**collar** [ˈkɑ:lər] – n. 1. каўн|е́р -яра́ *m.* 2. нашы́йнік -а *m.*, абро́ж|ак-ка *m.* (*для саба́кі*). 3. хаму́т -а́ *m.*
– v.t. 1. надзе́ць каўне́р (*ашы́йнік, хаму́т*). 2. схапі́ць за каўне́р

**collarbone** [ˈkɑ:lərboʊn] n. ключы́ца *f.*

**collateral** [kəˈlætərəl] – adj. 1. парале́льны, пабо́чны. 2. другара́дны, дадатко́вы. 3. з бакаво́е лі́ніі (*пра пахо́джаньне*). 4. забясьпе́чаны (*для пазы́кі*)
– n. 1. сваяк з бакаво́е лі́ніі (*напр. кузы́н*). 2. забясьпе́чаньне, закла́д за пазы́ку

**colleague** [ˈkɑ:li:g] n. кале́г|а -і *m.*, ся́бра (*па слу́жбе, па шко́ле*)

**collect** [kəˈlekt] v. 1. зьбіра́ць. 2. спаганя́ць, сы́скваць, сьця́гваць (*пада́ткі*). 3. засяро́джвацца, канцэнтрава́цца: ***to collect oneself*** схамяну́цца, апа́мятацца, прыйсьці да сябе́. 4. калекцыянава́ць

**collected** [kəˈlektɪd] adj. 1. сабра́ны: ***collected works*** сабра́ныя тво́ры, збор тво́раў. 2. спако́йны, вы́трыманы

**collection** [kəˈlekʃən] n. 1. зьбіра́ньне *n.* 2. сабра́ныя гро́шы. 3. кале́кцыя *f.*

**collective** [kəˈlektɪv] – adj. 1. супо́льны; агу́льны, збо́рны: ***the collective wisdom of Congress*** супо́льная му́драсьць Кангрэ́су; ***collective number*** збо́рны лічэ́бнік. 2. калекты́ўны: ***collective farming*** калекты́ўная гаспада́рка
– n. 1. збо́рны назо́ўнік. 2. су́ма *f.*, збор -у *m.* 3. калекты́ўнае прадпрые́мства, калга́с -у *m.*

**collective bargaining** перамо́вы рабо́тнікаў з працада́ўцам

**collectively** [kəˈlektɪvli] adv. калекты́ўна; як гру́па, усе́ ра́зам

**collectivize** [kəˈlektɪvaɪz] v. калектывізава́ць

**collectivization** [kəˌlektɪvəˈzeɪʃən] n. калектывіза́цыя *f.*

**collector** [kəˈlektər] n. 1. зьбіра́льнік, калекцыянэ́р -а *m.* 2. збо́ршчык -а *m.* (*пада́ткаў, даўго́ў*). 3. Tech. кале́ктар -а *m.*

**college** [ˈkɑ:lɪdʒ] n. 1. унівэрсытэ́цкі кале́дж: ***college of medicine*** мэды́чны кале́дж. 2. невялі́кі ўнівэрсытэ́т. 3. кале́гія *f.* 4. (*у Фра́нцыі*) сярэ́дняя шко́ла

**collegian** [kəˈli:dʒiən] n. 1. студэ́нт -а *m.*, студэ́нтка *f.* 2. ся́бра кале́гіі

**collegiate** [kəˈli:dʒiət] – adj. 1. унівэрсытэ́цкі, акадэмі́чны: ***collegiate life*** студэ́нцкае жыцьцё. 2. маладня́цкі, як студэ́нт, юна́к: ***collegiate irresponsibility*** маладня́цкая безадка́знасьць
– n. сярэ́дняя шко́ла

**collide** [kəˈlaɪd] v.i. 1. сутыка́цца, сту́кацца: ***The cars collided*** Аўтамабі́лі сту́кнуліся. 2. не пагаджа́цца, спрача́цца; супярэ́чыць

**collie** [ˈkɑ:li] n. шко́цкая аўча́рка

**collier** [ˈkɑ:ljər] n., esp. Brit. 1. вугляко́п -а *m.* 2. вадапла́ў для перавозкі вуго́льля

**colliery** [ˈkɑ:ljəri] n., pl. **-lieries** каме́ннаву́гальная капа́льня

**collision** [kəˈlɪʒən] n.1. сутыкне́ньне *n.* (*цягніко́ў, а́ўтаў*). 2. супярэ́чнасьць *f.*: ***to be in collision*** быць у супярэ́чнасьці; ***to come into collision*** тра́піць у супярэ́чнасьць. 3. канфлі́кт -у *m.*

**colloquial** [kəˈloʊkwiəl] adj. гутарко́вы, размо́ўны: ***colloquial language*** гутарко́вая мо́ва

**colloquialism** [kəˈloʊkwiəˌlɪzəm] n. размо́ўнае, гутарко́вае сло́ва, выра́з

**colloquy** [ˈkɑːləkwi] n., pl. **-quies** 1. гу́тарка *f.*; канфэрэ́нцыя *f.* 2. пі́саны дыялёг -у *m.*

**collude** [kəˈluːd] v.i. згаво́рвацца; змаўля́цца (*патае́мна*)

**colon I** [ˈkoʊlən] n. двухкро́п'е *n.*, два пу́нкты

**colon II** [ˈkoʊlən] n., pl. **-lons, -la** то́ўстая кі́шка

**colonel** [ˈkɜːrnəl] n. палко́ўнік -а *m.*

**colonial** [kəˈloʊniəl] – adj. калянія́льны: ***colonial policy*** калянія́льная палі́тыка; ***colonial skirmishes with the Indians*** суты́чкі калянізата́раў зь індыя́намі; ***colonial furniture*** мэ́бля сты́лю калянія́льнага пэры́яду
– n. жыха́р калёніі

**Colonies** [ˈkɑːləniz] n., pl. **the Colonies** трына́ццаць брыта́нскіх калёніяў, які́я ста́ліся Злу́чанымі Шта́тамі

**colonist** [ˈkɑːlənɪst] n. 1. каляні́ст -а *m.*, перасяле́н|ец, асяле́н|ец -ца *m.*, перасяле́нка, высяле́нка, асяле́нка *f.*; аса́днік -а *m.* 2. жыха́р калёніі

**colonization** [ˌkɑːlənəˈzeʃən] n. калянізáцыя *f.*

**colonize** [ˈkɑːlənaɪz] v.t. 1. калянізава́ць. 2. утвара́ць калёнію, асялі́цца ў калёніі

**colonizer** [ˈkɑːlənaɪzər] n. калянізáтар -а *m.*

**colonnade** [ˌkɑːləˈneɪd] n. каляна́да *f.*

**colony** [ˈkɑːləni] n., pl. **-nies** 1. калёнія *f.* 2. гру́па асяле́нцаў. 3. гру́па людзе́й адна́е прафэ́сіі: ***artists' colony*** калёнія мастако́ў. 4. Biol. жывёльнае або́ расьлі́ннае ску́пішча: ***a colony of ants*** мура́шнік -а *m.*

**color**, Brit. **colour** [ˈkʌlər] – n. 1. ко́лер -у *m.*, адце́ньне *n.* 2. афарбо́ўка, масьць *f.* (*пра жывёліну*). 3. фа́рба *f.*; фарбава́льнік -а *m.* (*для ткані́ны*). 3. ко́лер тва́ру (*румя́нец, бле́днасьць*): ***to lose color*** пабляднeць, пабле́кнуць, зьбяле́ць. 4. ко́лер ску́ры. 5. каляры́т -у *m.*, жы́васьць *f.*
– v. 1. фарбава́ць, малява́ць. 2. Figur. прадстаўля́ць у фальшы́вым сьвятле́, перакру́чваць; афарбо́ўвац|ь (-ца)
• ***change color*** а) пабляднeць. б) пачырване́ць
• ***colors*** адзна́ка, во́пратка (*арганіза́цыі, па́ртыі*)
• ***give or lend color to*** дада́ць праўдападо́бнасьць *чаму́*
• ***show one's colors*** а) паказа́ць сябе́ такі́м, які́м ёсьць. б) раскры́ць свае́ пагля́ды ці пля́ны
• ***the colors*** а) сьцяг нацыяна́льны, вайско́вы. б) цырымо́ніі падыма́ньня й апуска́ньня сьця́га
• ***with flying colors*** пасьпяхо́ва, зь перамо́жнымі адзна́камі

**color-blind** [ˈkʌlərblaɪnd] adj. дальтані́чны

**colorfast** [ˈkʌlərfæst] adj. колератрыва́лы

**color film** каляро́вая сту́жка

**colorful** [ˈkʌlərfəl] adj. 1. каляро́вы, ко́лерны. 2. маляўні́чы: ***a colorful description*** маляўні́чае апіса́ньне

**coloring** [ˈkʌlərɪŋ] n. 1. афарбо́ўка *f.* 2. фа́рба *f.*, пігмэ́нт -у *m.*

**colorless** [ˈkʌlərləs] adj 1. бяско́лерны. 2. бляды́, бле́дны: ***a colorless complexion*** бле́дны ко́лер тва́ру. 3. нецікaвы: ***a colorless person*** нецікaвы чалаве́к

**colt** [koʊlt] n. 1. жарабя́, асьляня́ *n.* 2. малады́ недасьве́дчаны чалаве́к, наві́ч|ок -ка́ *m.*

**column** [ˈkɑːləm] n. 1. калёна *f.*, абэлі́ск -а *m.* слуп|о́к -ка́ *m.*, калёнка *f.* (*газэ́тная*): ***a column of smoke*** слуп ды́му; ***the spinal column*** хрыбе́т -та́, пазвано́чнік -а *m.* 3. а) аддзе́л -у *m.* (*у газэ́це*): ***a financial column*** фіна́нсавы аддзе́л. б) арты́кул у гэ́тым аддзе́ле. 4. калёна *f.* (*жаўне́раў*), аўтакалёна

**columnist** [ˈkɑːləmnɪst] n. камэнта́тар -а *m.* (*газэ́тны*); фэльетані́ст -а *m.*, фэльетані́стка *f.*

**coma I** [ˈkoumə] n. кóма *f.*, бяспáмяцтва *n.*

**coma II** [ˈkoumə] n., pl. **comae** абалóнка камэ́ты

**comb** [koum] – n. 1. грэ́бенlь -я *m.* (*i ў пéўня*). 2. скрэ́бла *n.*; шчóтка для часáньня, часáлка *f.* 3. сóты *pl.*, вашчы́на *f.* 4. грэ́бні хвáляў
– v.t. 1.часáць: ***to comb one's hair*** прычэ́свацца. 2. чы́сьціць скрэ́блам (*кaня́*). 3. абшýкваць (усю́ды), пeратрасáць, прачэ́сваць: ***We had to comb the whole city to find our dog*** Мы абшукáлі ўвесь гóрад, пакýль знайшлí свайгó сабáку

**combat** [ˈkɑːmbæt] – n. 1. боlй -ю *m.*, бíтва *f.*: ***a single combat*** двубólй -ю *m.*
– adj. баявы́, пахóдны, страявы́: ***combat company*** а) рóта ў баявы́м парáдку. б) сапёрная рóта; ***combat boots*** пахóдныя бóты
– v. [kəmˈbæt] бíцца; ваявáць; змагáцца

**combatant** [kəmˈbætənt] n. змагáр -á *m.*, баléц -йцá *m.*, камбатáнт -а *m.*

**combative** [kəmˈbætɪv] adj.1. баявы́, ваяўнíчы. 2. задзíрысты, лёгкі да бóйкі ці свáркі

**combed** [koumd] adj. прычэ́саны; чэ́саны: ***combed yarn*** чэ́саная прáжа

**combination** [ˌkɑːmbɪˈneɪʃən] n. 1. злучэ́ньне, адзінóчаньне *n.* 2. задзінóчаньне, спалучэ́ньне *n.*, сындыкáт -у *m.* 3. камбінáцыя *f.*: ***a combination lock*** сакрэ́тны замóк; ***the combination of a safe*** камбінáцыя сэ́йфу. 4. камбінэзóн -а *m.* (*вéрхні абó спóдні*). 5. Chem. спалучэ́ньне *n.*

**combine** [kəmˈbaɪn] – v. 1. лучы́цца, злучáцца, задзінóчвацlь (-ца). 2. Chem. спалучáць у хімíчныя элемэ́нты. 3. жаць і малацíць камбáйнам
– n. 1. камбінáт -у *m.*: ***publishing combine*** выдавéцкі камбінáт. 2. камбáйн -а *m.*

**combined** [kəmˈbaɪnd] adj. 1. спалýчаны, злýчаны. 2. супóльны

**combustible** [kəmˈbʌstəbəl] – adj. 1. запáльны, гарýчы; лёгкі на загарáньне. 2. пáлкі, гарáчы; запáльчывы
– n. гарýчае, пáліва *n.*, узгарáльнае рэ́чыва

**combustibility** [kəmˌbʌstəˈbɪləti] n. запáльнасьць, гарýчасьць *f.*

**combustion** [kəmˈbʌstʃən] n. 1. гарэ́ньне, згарáньне, спáльваньне *n.* 2. Chem. акісьлéньне *n.* 3. Figur. хвалявáньні *pl. only*, замяшáньне *n.*

**come** [kʌm] v.i. **came, come** 1. а) прыхóдзіць: ***Come here!*** Хадзí сюды́; ***to come flying!*** прылятáць; ***to come running*** прыбягáць. б) прыяжджáць; прылятáць: ***to come by car*** прыéхаць машы́наю. в) прыбывáць: ***They will come home tomorrow*** Яны́ прыéдуць зáўтра. 2. наставáць, прыхóдзіць: ***Summer came*** Настáла лéта. 3. здарáцца: ***How did it come that...*** Як так стáлася, што... 4. брáць пачáтак, пахóдзіць: ***These words came from Latin*** Гэ́тыя слóвы прыйшлí з лацíны; ***to come of a poor family*** пахóдзіць зь бéднае сям'í; ***No good will come of it*** Нічóга дóбрага з гэ́тага ня вы́йдзе
• ***come about*** а) здáрыцца, адбы́цца. б) завярнýцца, зьмянíць кірýнак
• ***come across*** а) напаткáць, сустрэ́цца; спатыкáцца. б). Sl. давáць, плацíць
• ***come at*** а) дайсьцí да *чагó*, дабрáцца. б) кíнуцца на *кагó*, заатакавáць
• ***come back*** а) варóчацца, вяртáцца. б) пóмсьціць
• ***come between*** разьдзялáць; разлучáць, умéшвацца
• ***come by*** атрымáць; набы́ць; нажы́ць: ***to come by the money*** нажы́ць грóшы, дайсьцí да грóшай
• ***come down*** а) зыхóдзіць; зьяжджáць, злáзіць. б) перадавáцца, перахóдзіць з пакалéньня ў пакалéньне (*па трады́цыі*). в) стрáціць рáнг, станóвішча, грóшы
• ***come forward*** а) вы́йсьці, вы́ступіць (*напéрад*). б) прапанавáць дапамóгу, ісьцí насýстрач

• ***come in*** а) уваходзіць: ***Come in!*** Уваходзьце! б) прыходзіць, прыбываць (*пра цягнік, вадаплаў*)
• ***come in to*** атрымваць; набываць
• ***come in handy*** прыдацца
• ***come in sight*** паказацца
• ***come in time*** падасьпець, пасьпець
• ***come in to*** атрымаць (*грошы*): ***to come into one's own*** атрымаць належнае; ***to come into being*** паўставаць; узьнікаць (*нараджацца*)
• ***come off*** а) адбыцца, стацца. б) выявіцца. в) выйсьці (*з спаборніцтва, спрэчкі*). г) адарвацца (*пра гузік*), адклейвацца, адставаць
• ***Come off it!*** Досыць ужо!
• ***come on*** а) сустрэць выпадкова. б) рабіць поступ (*у навуцы*), разьвівацца (*пра хваробу*), набліжацца (*пра буру*). в) выходзіць на сцэну
• ***Come on!*** За мною! Хадзем хутчэй! Калі ласка (*просячы*); А ну! Ды ну!
• ***come out*** а) выходзіць (*з пакою, з друку — пра кнігу*). б) закончыцца, выйсьці. в) раскрыцца, выявіцца: ***The truth will come out*** Праўда выявіцца; ***The secret came out*** Сакрэт раскрыўся. г) дэбютаваць. д) распускацца (*пра лісты, краскі*). е) выводзіцца (*пра плямы*)
• ***come over*** а) апанаваць, агарнуць: ***A fear came over me*** Мяне агарнуў страх. б) стацца: ***What's come over him?*** Што зь ім сталася?
• ***come to*** а) прыйсьці да прытомнасьці: ***to come to oneself*** а) ачуняць. б) каштаваць, даходзіць: ***The bill came to $10*** Рахунак дайшоў да 10 даляраў
• ***come to blows*** пабіцца, дайсьці да кулакоў
• ***come to one's senses*** апамятацца
• ***come to terms*** прыйсьці да пагадненьня
• ***come together*** зыходзіцца, зьяжджацца
• ***come true*** збыцца, спраўдзіцца, зьдзейсьніцца
• ***come up*** узыходзіць
• ***come up with a solution*** знайсьці разьвязку
• ***come what may...*** што будзе, тое будзе; а ўжо ж што будзе
• ***How come?*** Чаму так?
• ***if worst comes to worst*** у найгоршым выпадку

**comedian** [kəˈmi:diən] n. 1. комік -а *m.* (*актор*). 2. камэдыянт -а *m.* 3. сьмешны, забаўны, дасьціпны чалавек

**comedienne** [kəˌmi:diˈen] n. камэдыянтка *f.*

**comedown** [ˈkʌmdaʊn] n. 1. Informal занепад -у *m.*, зьбядненьне *n.* 2. страта становішча або рангу, дэградацыя *f.*

**comedy** [ˈkɑ:mədi] n., pl. **-dies** 1. камэдыя *f.* 2. забаўнае здарэньне *або* выпадак

**comely** [ˈkʌmli] adj. **-lier, -liest** 1. прывабны, прыемны з выгляду; мілы, статны: ***rather comely than beautiful*** хутчэй прывабная, чым прыгожая. 2. адпаведны, прыгодны

**comet** [ˈkɑ:mɪt] n. камэта *f.*

**comfort** [ˈkʌmfərt] – v. 1. суцяшаць; разважваць. 2. падбадзёрваць. 3. рабіць выгодным. 4. Archaic дапамагаць, падтрымваць
– n. 1. суцяшэньне *n.* 2. уцеха, радасьць, асалода *f.*; падтрымка *f.*: ***Social security is a comfort to retired persons*** Сацыяльнае забесьпячэньне — падтрымка для пэнсіянэраў. 3. а) выгода *f.*; зручнасьць *f.* б) выгоды жыцьця, камфорт -у *m.*

**comfortable** [ˈkʌmpftəbəl] adj. 1. выгодны, зручны: ***This chair is comfortable*** Гэтае крэсла выгоднае. 2. ёмкі, утульны. 3. супакойны, спакойны, бестурботны: ***a comfortable sleep*** спакойны сон; ***to feel comfortable*** чуцца спакойным, задаволеным. 4. Informal дастатковы, ладны (*заробак*); значны, пераважны (*бальшыня галасоў*)

**comfortably** [ˈkʌmpftəbli] adv. выгодна, утульна; зручна, ёмка

**comforter** [ˈkʌmfərtər] n. 1. суцяша́льнік -а *m.* 2. сьцёганая ко́ўдра. 3. даўгі́ ваўня́ны шаль. 4. со́ска-пусты́шка

**comfortless** [ˈkʌmfərtləs] adj. 1. су́мны (*пра сло́вы*), няўце́шны (*боль*). 2. няўту́льны; невыго́дны, без выго́даў

**comic** [ˈkɑ:mɪk] – adj. 1. камі́чны, гумарысты́чны, сьме́шны, заба́ўны. 2. камэды́йны: ***comic opera*** апэрэ́тка
– n. ко́мік -а *m.* (*акто́р*). 2. кінакамэ́дыя *f.*, мультыплікацы́йны фі́льм. 3. камі́зм -у *m.* 4. Informal ко́мікс -а *m.*

**comics** ко́міксы, сэры́йныя малю́нкі

**comical** [ˈkɑ:mɪkəl] adj. 1. заба́ўны, паце́шны, сьме́шны, камі́чны. 2. Informal дзіўны́, дзіва́чны, дзівакава́ты

**coming** [ˈkʌmɪŋ] – n. 1. надыхо́д -у *m.* 2. прыхо́д -у *m.* (*цягніка́*), прые́зд -у *m.*
– adj. насту́пны, надыхо́дзячы

**comity** [ˈkɑ:məti] n., pl. **-ties** ве́тлівасьць, цывілізава́насьць *f.*

**comity of nations** узае́мнае прызна́ньне зако́наў і звы́чаяў і́ншых на́родаў

**comma** [ˈkɑ:mə] n. ко́ска *f.*

**command** [kəˈmænd] – v.t. 1. зага́дваць: ***to command the men to fire*** загада́ць жаўне́рам страля́ць. 2. кама́ндаваць; кірава́ць: ***The captain commands his ship*** Капіта́н кіру́е караблём. 3. панава́ць, мець кантро́ль: ***to command the seas*** панава́ць на мо́рах. 4. вы́сіцца, мець угля́д
– n. 1. зага́дваньне, кама́ндаваньне *n.* 2. зага́д, нака́з- у *m.*; інстру́кцыя *f.*; указа́ньне *n.* 3. Milit. кама́нда *f.*, кама́ндаваньне *n.*: ***to be in command of a regiment*** кама́ндаваць палко́м; ***under command*** пад кама́ндаваньнем; ***at command*** у распараджэ́ньні. 4. аўтарытэ́т -у *m.*, ула́да *f.* 5. вало́даньне *n.*, бе́гласьць *f.* (*мо́вы*)

**commandant** [ˈkɑ:məndænt] n. 1. нача́льнік -а *m.* (*ва́еннай акадэ́міі або́ шко́лы*), камандзі́р -а *m.* 2. камэнда́нт (*крэ́пасьці*)

**commandeer** [ˌkɑ:mənˈdɪr] v.t. 1. рэквізава́ць (*прыва́тнае майно́*). 2. прымусо́ва набіра́ць у во́йска

**commander** [kəˈmændər] n. 1. зага́дчык, нача́льнік -а, правады́р -á *m.* 2. кама́ндуючы -ага *m.* 3. капіта́н -а *m.*

**commander-in-chief,** pl. **commanders-in-chief** галоўнакама́ндуючы

**commanding** [kəˈmændɪŋ] adj. 1. кама́ндуючы (*афіцэ́р*). 2. кіру́ючы; ула́дны, мо́цны: ***commanding influences*** мо́цныя ўплы́вы. 3. аўтарытэ́тны; які́ імпану́е, ро́біць ура́жаньне: ***a commanding voice*** аўтарытэ́тны го́лас. 4. які́ дамінуе або́ ўзвыша́ецца (*напр. узго́рак*)

**commandment** [kəˈmændmənt] n. 1. запаве́т -у *m.* (*адзі́н зь дзесяцёх*). 2. зага́д -у *m.*, дырэкты́ва *f.*, зако́н -у *m.*

**commando** [kəˈmændoʊ] n. спэцыя́льны аддзе́л (*во́йска, мілі́цыі*)

**command post** галоўная кватэ́ра

**commemorate** [kəˈmeməreɪt] v.t. 1. ушано́ўваць, адзнача́ць па́мяць *або́* ўго́дкі. 2. захо́ўваць па́мяць, увекаве́чваць

**commemoration** [kəˌmeməˈreɪʃən] n. 1. адзначэ́ньне, сьвяткава́ньне *n.* 2. слу́жба, урачы́стасьць (*у па́мяць*): ***in commemoration of*** каб ушанава́ць па́мяць *каго́-чаго́*

**commemorative** [kəˈmemərətɪv] adj. мэмарыя́льны

**commence** [kəˈmens] v. 1. пачына́цца. 2. пачына́ць

**commencement** [kəˈmensmənt] n. 1. пача́т|ак -ку *m.* 2. выпускны́ дзень у школе ці ўнівэрсытэ́це. 3. урачы́стасьць у гэ́ты дзень

**commend** [kəˈmend] v. 1. хвалі́ць. 2. рэкамэндава́ць; сулі́ць. 3. аддава́ць пад не́чую апе́ку

**commendable** [kəˈmendəbəl] adj. пахва́льны, ва́рты пахвалы́

**commendation** [ˌkɑ:menˈdeɪʃən] n. 1. ухвале́ньне *n.*; пахвала́ *f.* 2. рэкамэндава́ньне *n.*, рэкамэнда́цыя *f.* 3. даве́раньне, даручэ́ньне *n.*; перада́ча пад апе́ку *або́* на захава́ньне

**commendatory** [kəˈmendətɔ:ri] adj. рэкамэндацы́йны (*ліст*)

**commensurable** [kəˈmensərəbəl] adj. 1. сувымéрны. 2. адпавéдны (*памéрам, кóлькасьцю*), прапарцы́йны

**commensurate** [kəˈmensərət] adj. 1. у адпавéднай прапóрцыі, прапарцы́йна аднóлькавы. 2. рóўны (*памéрамі, вышынёю*). 3. сувымéрны

**comment** [ˈkɑ:ment] – n. 1. тлумачэ́ньне *n.*, заўвáга *f.*, камэнтáр -á *m.* 2. зáцемка *f.*, выкáзваньне *n.* 3. гýтарка *f.*, абгавóр -у *m.*

– v.i. 1. пісáць паясьня́льныя *абó* крыты́чныя зáцемкі. 2. выкáзвацца, рабíць заўвáгі. 3. абгавóрваць

**commentary** [ˈkɑ:menteri] n., pl. **-ries** 1. тлумачáльныя зáцемкі, паясьнéньні. 2. тлумачáльны нáрыс. 3. камэнтáр (*у рáдыё, тэлевíзіі*)

**commerce** [ˈkɑ:mɜ:rs] n. гáнд|аль -лю *m.*, камэ́рцыя *f.*

**commercial** [kəˈmɜ:rʃəl] – adj. гандлёвы, камэрцы́йны

– n. гандлёвая рэкля́ма, абвéстка (*у рáдыё, тэлевíзіі*)

**commercial bank** камэрцы́йны банк

**commingle** [kəˈmɪŋgəl] v.t. зьмéшвац|ь (-ца), мяшáц|ь (-ца); зьлівáц|ь (-ца) (*пра галасы́*)

**comminute** [ˈkɑ:mənu:t] v.t. 1. таўчы́, расьцірáць (*на парашóк*). 2. крышы́ць, драбíць

**comminution** [ˌkɑ:məˈnu:ʃən] n.1. пераўтварэ́ньне ў парашóк, раздрабнéньне. 2. Surg. злом кóсьці на нéкалькі кавáлкаў

**commiserate** [kəˈmɪzəreɪt] v.t. 1. спачувáць. 2. лíтавацца над *кім*, шкадавáць

**commissar** [ˈkɑ:məsɑ:r] n. камісáр -а *m.*

**commissariat** [ˌkɑ:məˈseriət] n. 1. а) інтэндáнцтва *n.* б) інтэндáнт -а *m.* 2. дастáўка харчóў. 3. камісары́ят -у *m.*

**commissary** [ˈkɑ:məseri] n., pl. **-saries** 1. крáма ў вайскóвым ля́геры. 2. інтэндáнт -а *m.* 3. дэпутáт -а, прадстаўнíк -á *m.* 4. камісáр -а *m.*

**commission** [kəˈmɪʃən] – n. 1. даручэ́ньне *n.*; паўнамóцтва *n.*, мандáт -у *m.* 2. а) загáд пра надáньне вайскóвага рáнгу. б) надáдзены ранг: ***to get a commission*** атрымáць афіцэ́рскі ранг; ***to resign one's commission*** звóльніцца з вайскóвае слýжбы. 3. камíсія *f.*, камітэ́т-у *m.* 4. камісíйная плáта

– v.t. 1. прызначáць на станóвішча; дэлегавáць; давáць паўнамóцтвы. 2. даручáць, давáць замóву (*мастакý на карцíну*). 3. рыхтавáць да дзéяньня

• ***in commission*** а) на слýжбе; у карыстáньні. б) гатóвы да слýжбы *абó* ўжывáньня; у спрáўнасьці

• ***out of commission*** а) у адстáўцы. б) не гатóвы для ўжывáньня; няспрáўны

**commissioner** [kəˈmɪʃənər] n. 1. ся́бра камíсіі (*асабл. ўрáдавае*). 2. камісáр -а *m.*: ***the commissioner of public health*** камісáр ахóвы здарóўя

**commit** [kəˈmɪt] v.t. 1. рабíць, учыня́ць: ***to commit adultery*** учынíць жанíмскую здрáду; ***to commit an error*** зрабíць памы́лку. 2. аддавáць: ***to commit to an asylum*** аддáць у шпітáль для псыхíчна хвóрых; ***to commit the body to earth (the grave)*** хавáць цéла, аддавáць зямлí; ***to commit to fire*** спалíць. 3. зьнявóліць. 4. абавязáц|ь (-ца): ***It does not commit me to anything*** Гэ́та мянé да нічóга не абавя́звае; ***He would not commit himself in any way*** Ён нічы́м не забавязáўся

• ***commit to memory*** навучы́цца напáмяць

• ***commit to paper or writing*** запісáць, давéрыць паперы

**commitment** [kəˈmɪtmənt] n. 1. абяцáньне, забавязáньне *n.* 2. прысýд, загáд пасадзíць у астрóг *абó* паслáць у дом для псыхíчна хвóрых. 3. уручэ́ньне *n.*, перадáча *f.*

**committee** [kəˈmɪti] n. камітэ́т -у *m.*, камíсія *f.*: ***standing committee*** стáлая камíсія (*парлямэ́нту ці арганізáцыі*)

**committeeman** [kəˈmɪtimən] n., pl. **-men** ся́бра камíсіі *m. & f.*

**commode** [kəˈmoud] n. 1. камóда *f.* 2. стульчáк (*у прыбірáльні*)

**commodious** [kəˈmoʊdiəs] adj. 1. абшы́рны. 2. зру́чны, выгі́дны: ***a commodious location*** зру́чнае разьмяшчэ́ньне

**commodity** [kəˈmɑːdəti] n., pl. **-ties** 1. тава́р, вы́раб -у *m.* 2. прадме́т ужы́тку

**common** [ˈkɑːmən] – adj. 1. супо́льны: ***common interest*** супо́льныя зацікаўле́ньні. 2. агу́льны, агу́льнапрыня́ты: ***by common consent*** за агу́льнай зго́дай; ***common knowledge*** агу́льнае ве́дама. 3. грама́дзкі, публі́чны: ***common land*** грама́дзкая пасе́ка. 4. звыча́йны, про́сты, паспалі́ты: ***common man*** звыча́йны, про́сты чалаве́к. 5. про́сты, грубы́: ***common speech*** про́стая, груба́я мо́ва. 6. Gram. a) агу́льны: ***common gender*** агу́льны род; ***common noun*** агу́льны назо́ўнік

– n. 1. супо́льнае *n.* 2. звы́чайнае *n.*: ***to have nothing in common*** ня мець нічо́га супо́льнага

• ***commons*** 1. агу́льнаграма́дзкая зямля́. 2. про́стыя лю́дзі. 3. агу́льная стало́ўка (*для студэ́нтаў*)

• ***the Commons*** = ***the House of Commons*** ні́жняя пала́та брыта́нскага й канады́йскага парлямэ́нту

**common denominator** агу́льны назо́ўнік (*дро́баў*)

**common divisor** (or **factor**) агу́льны дзе́льнік (*мно́жнік*)

**common fraction** про́сты дроб

**common law** 1. звычаёвае пра́ва. 2. няпі́саны зако́н

• ***common law marriage*** факты́чнае жані́мства (*бяз шлю́бу*), жыцьцё на ве́ру

**common logarithm,** Math. дзесятко́вы лягары́тм

**common measure (time),** Mus. па́рны такт (*на два або́ чатыры*)

**commonly** [ˈkɑːmənli] adv. звыча́йна; агу́льна

**common market** агу́льны ры́нак

**Common Market** Агу́льны Ры́нак

**commonplace** [ˈkɑːmənpleɪs] – n. a) звыча́йная, штодзённая рэч. б) бана́льнасьць *f.*

– adj. стары́, нецікáвы; зьбі́ты (*жарт*); бана́льны, штодзённы, звыча́йны

**common sense** здаро́вы ро́зум

**commonweal** [ˈkɑːmənwiːl] n. агу́льнае дабро́

**commonwealth** [ˈkɑːmənwelθ] n. 1. наро́д -у *m.*, грамадзя́не адна́е дзяржа́вы. 2. дэмакраты́чная дзяржа́ва; супо́льнасьць, садру́жнасьць *f.*

• ***Commonwealth of Independent States (CIS)*** Супо́льнасьць Незале́жных Дзяржа́ваў (СНД)

• ***the Commonwealth of Nations*** = ***the British Commonwealth of Nations*** Брыта́нская супо́льнасьць наро́даў

**commotion** [kəˈmoʊʃən] n. 1. мітусьня́, бегатня́, сумятня́ *f.*; хвалява́ньне *n.* 2. публі́чныя хвалява́ньні, забурэ́ньні. 3. гвалто́ўны рух; бу́рныя ўда́ры (*ве́тру, бу́ры*), бурле́ньне: ***commotion of the waves*** бу́рныя ўда́ры хва́ляў

**communal** [kəˈmjuːnəl] adj. 1. абшчы́нны: ***communal ownership of land*** абшчы́ннае земляўлада́ньне. 2. калекты́ўны, камуна́льны; грама́дзкі

**communicate** [kəˈmjuːnɪkeɪt] v. 1. перадава́ць. 2. паведамля́ць, каза́ць: ***to communicate news*** паве́даміць наві́ну. 3. паразумява́цца, дамаўля́цца. 4. спалуча́цца, быць спалу́чаным (*пако́і*). 5. прычашча́цца

**communication** [kəˌmjuːnɪˈkeɪʃən] n. 1. перадава́ньне інфарма́цыі. 2. зно́сіны *pl.*, камуніка́цыя *f.* 3. ліст -а́ *m.*, ве́стка *f.*; паведамле́ньне *n.* 4. a) шляхі́ зно́сінаў. б) палучэ́ньне *n.*, прахо́д -у *m.* (*з пако́ю ў пако́й*)

• ***communications*** лі́ніі, сыстэ́ма су́вязі

**communicative** [kəˈmjuːnɪkətɪv] adj. 1. тава́рыскі, гаваркі́. 2. камунікаты́ўны

**communion** [kəˈmjuːniən] n. 1. супо́льнасьць (*зацікаўле́ньняў*). 2. блі́зкая духо́вая су́вязь, сябро́ўства *n.* 3.

гру́па людзе́й адно́лькавага веравызна́ньня

• ***(Holy) Communion*** прыча́сьце *n.*

**communiqué** [kə'mju:nɪkeɪ] n. ура́давы камуніка́т, камюніке́ *n., indecl.*

**communism** ['ka:mjəˌnɪzəm] n. камуні́зм -у *m.*

**communist** ['ka:mjənəst] – n. камуні́ст -а *m.*, камуні́стка *f.*

– adj. камуністы́чны: ***Communist party*** камуністы́чная па́ртыя

**community** [kə'mju:nəti] – n., pl. **-ties** 1. грамада́ *f.* 2. грама́дзкасьць *f.* 3. супо́льнасьць *f.*, супо́льнасьць навуко́ўцаў: ***community of ideas*** супо́льнасьць погля́даў. 4. супо́льнае ўлада́ньне: ***community property*** супо́льная ўла́снасьць, маёмасьць *f.* 5. падабе́нства *n.*, падо́бнасьць, то́еснасьць *f.* (*зацікаўле́ньняў*)

– adj. 1. грама́дзкі: ***a community playground*** грама́дзкая пляцо́ўка для гу́льняў; ***community center*** грама́дзкі цэ́нтар

• ***community college*** двухгадо́вы кале́дж, утрымо́ўваны мясцо́вай шко́льнай сыстэ́май

**commutate** ['ka:mjəteɪt] v. 1. Electr. пераключа́ць (*ток*). 2. замяня́ць ток (*пераме́нны на ста́лы*)

**commutation** [ˌka:mjə'teɪʃən] n. 1. заме́на *f.* 2. зьме́ншаньне ка́ры. 3. е́жджаньне на пра́цу (*цягніко́м, аўто́бусам*). 4. Electr. пералуча́ньне то́ку камута́тарам, камута́цыя *f.*

• ***commutation ticket*** сэзо́нны біле́т (*для прае́зду*)

**commutator** ['ka:mjəteɪtər] n., Electr. пераключа́льнік (*то́ку*), камута́тар -а *m.*

**commute** [kə'mju:t] v. 1. замяня́ць (*забавяза́ньне*). 2. зьмянша́ць ка́ру. 3. пералуча́ць (*кіру́нак то́ку*). 4. е́зьдзіць на пра́цу (*цягніко́м, аўто́бусам*)

**commuter** [kə'mju:tər] n. асо́ба, што рэгуля́рна курсу́е, дае́зьнік -а *m.*

**compact I** [kəm'pækt] – adj. 1. тугі́, шчы́льны, шчы́тны. 2. кампа́ктны. 3. сьці́слы (*стыль*), каро́ткі

– v. ту́га пакава́ць; шчы́льна зьвя́зваць, сьціска́ць

– n. ['ka:mpækt] 1. малы́ аўтамабі́ль. 2. пу́драніца *f.*

**compact II** ['ka:mpækt] n. умо́ва, зго́да *f.*; кантра́кт -у *m.* (*між бака́мі*)

**companion** [kəm'pænjən] – n. 1. ся́бра -ы *m.*, сябро́ўка *f.*, тава́рыш -а *m.* 2. кампаньён -а *m.*

– v.t. суправаджа́ць, спадаро́жнічаць

**companionship** [kəm'pænjənʃɪp] n. сябро́ўства *n.*

**company** ['kʌmpəni] n., pl. **-nies** 1. кампа́нія *f.* (*гандлёвая*); тава́рыства *n.* 2. кампа́нія *f.* (*тава́рыская*): ***to behave well in company*** до́бра трыма́цца ў кампа́ніі. 3. Informal госьці -я *m.*, го́сьця *f.* 4. тава́рыства, сябро́ўства *n.* 5. Milit. ро́та *f.*

• ***bear company*** трыма́цца, быць у кампа́ніі

• ***keep company*** ве́сьці знаёмства, быць у кампа́ніі

• ***part company*** а) разыйсьці́ся. б) парва́ць знаёмства

**comparable** ['ka:mpərəbəl] adj. параўна́льны, падо́бны

**comparative** [kəm'pærətɪv] – adj. 1. параўна́льны. 2. адно́сны, параўна́льны (*кары́сьць, лёгкасьць*). 3. Gram. параўна́льны (*злу́чнік*)

– n. вышэ́йшая ступе́нь (*пры́ме́тніка, прысло́ўя*)

**comparatively** [kəm'pærətɪvli] adv. параўна́льна

**compare** [kəm'per] – v. 1. (with) а) раўнава́ць, параўно́ўваць. б) зраўно́ўвацца: ***not to be compared with*** а) непараўна́ны, ве́льмі ро́зны. б) далёка не такі́ до́бры. 2. лічы́ць падо́бным. 3. Gram. утвара́ць ступе́ні параўна́ньня (*пры́ме́тнікаў, прысло́ўяў*)

– n. параўна́ньне *n.*: ***beyond compare*** без параўна́ньня, непараўна́льны

**comparison** [kəm'pærɪsən] n. 1. параўна́ньне *n.*: ***There is no comparison between them*** Між і́мі ня мо́жа быць нія́кага параўна́ньня. 2. пада-

бе́нства *n.* 3. Gram. зьме́на па ступе́нях параўна́ньня (*прыме́тнікаў*)
**compartment** [kəmˈpɑ:rtmənt] n. асо́бнае аддзяле́ньне *n.*, купэ́ *n., indecl.*
**compass** [ˈkʌmpəs] – n. 1. ко́мпас -а *m.* 2. ме́жы *pl.*, абся́г -у *m.* 3. дыяпазо́н -у *m.* 4. Figur. стрыма́насьць *f.*: ***to keep one's desire within compass*** стры́мваць, абмяжо́ўваць сваé жада́ньні. 5. *такс.* **compasses** цы́ркул|ь -я *m.*
– v.i. 1. íсьці наво́кал, абыхо́дзіць. 2. абкружа́ць; абступа́ць. 3. дасяга́ць: ***to compass one's purpose*** дасягну́ць сваé мэ́ты. 4. рабíць змо́ву, заду́мваць (*інтры́гу*). 5. спасьцiга́ць, цалкам разуме́ць
– adj. акру́жны, кругападо́бны
**compassion** [kəmˈpæʃən] – n. спага́да *f.*, спачува́ньне *n.*
– v. спагада́ць, спачува́ць, шкадава́ць
**compass plane** банда́рскі струг, гэ́блік з паўкру́глым лязо́м
**compassionate** [kəmˈpæʃənət] adj. спачува́льны, спага́длівы; жа́ласьлівы
**compatibility** [kəmˌpætəˈbɪləti] n. 1. сумяшча́льнасьць *f.* 2. зго́днасьць, сула́днасьць *f.*, зго́днае сужыцьцё
**compatible** [kəmˈpætəbəl] adj. сумяшча́льны, сула́дны
**compatriot** [kəmˈpætriət] n. суайчы́ньнік -а *m.*, зямля́к, землякá *m.*, зямля́чка *f.*
**compel** [kəmˈpel] v.t.(**-ll-**) 1. змуша́ць, прымуша́ць, вымуша́ць. 2. дабіва́цца; дамага́цца. 3. зганя́ць (*у грамаду́, да ку́чы*)
**compendious** [kəmˈpendiəs] adj. каро́ткі, сьцíслы
**compendium** [kəmˈpendiəm] n., pl. **-diums, -dia** каро́ткі перака́з; рэзюмэ́ *n., indecl.*; скарачэ́ньне *n.* (*кнíгі*)
**compensate** [ˈkɑ:mpənseɪt] v. 1. пакрыва́ць;варо́чаць, вярта́ць (*стра́ты*). 2. кампэнсава́ць, наганя́ць (*стра́чаны час*). 3. апла́чваць, плацíць: ***to compensate for extra work*** заплацíць за дадатко́вую пра́цу. 4. Tech. балянсава́ць, ураўно́ўваць
**compensation** [ˌkɑ:mpənˈseɪʃən] n. 1. узнагаро́джаньне, кампэнсава́ньне *n.* 2. узнагаро́да *f.*; адшкадава́ньне *n.*, кампэнса́цыя *f.* (*за стра́ты, скале́чаньне*). 3. пэ́нсія *f.*, пла́та за пра́цу: ***equal compensation for men and women for equal work*** адно́лькавая пла́та для мужчы́наў і жанчы́наў за адно́лькавую пра́цу. 4. Tech. балянсава́ньне, ураўно́ўваньне *n.*
**compete** [kəmˈpi:t] v.i. 1. спабо́рнічаць, спаду́жнічаць; змага́цца. 2. прыма́ць удзе́л у спабо́рніцтве. 3. канкурава́ць
**competence** [ˈkɑ:mpətəns] n. or **-cy** 1. здо́льнасьць, зда́тнасьць., кампэтэ́нтнасьць, кваліфіка́цыя *f.* 2. Law правамо́цтва *n.*, кампэтэ́нцыя *f.* (*су́ду*). 3. даста́т|ак -ку *m.*, замо́жнасьць *f.*
**competent** [ˈkɑ:mpətənt] adj. 1. кваліфікава́ны, здо́льны, падрыхтава́ны; адпаве́дны, кампэтэ́нтны. 2. Law правамо́цны, раўнапра́ўны
**competition** [ˌkɑ:mpəˈtɪʃən] n. 1. спаду́жніцтва *n.*, канкурэ́нцыя *f.* (*гандлёвая*). 2. спабо́рніцтва *n.*, вы́перадкі *pl.* (*у бе́гу*); ко́нкурс -у *m.*: ***chess competition*** ша́хматны турні́р
**competitive** [kəmˈpetətɪv] adj. 1. ко́нкурсны: ***competitive examination*** ко́нкурсны экза́мэн, ко́нкурс -у *m.* 2. канкурэнцы́йны (*цана́*), спабо́рны (*пра дружы́ны*)
**competitor** [kəmˈpetətər] n. спаду́жнік, спабо́рнік -а *m.*; канкурэ́нт -а *m.*
**compilation** [ˌkɑ:mpɪˈleɪʃən] n. 1. зьбіра́ньне *n.* (*матэрыя́лу, фа́ктаў*). 2. кампіля́цыя *f.*
**compile** [kəmˈpaɪl] v.t. 1. склада́ць: ***to compile a dictionary*** склада́ць сло́ўнік. 2. зьбіра́ць; кампілява́ць
**compiler** [kəmˈpaɪlər] n. склада́льнік -а *m.*, склада́льніца *f.*; кампіля́тар -а *m.*
**complacency** [kəmˈpleɪsənsi] n., pl. **-cies** 1. самазадаво́ленасьць *f.*, самазадаво́леньне *n.* 2. здаво́ленасьць, задаво́ленасьць *f.*
**complacent** [kəmˈpleɪsənt] adj. самаздаво́лены, задаво́лены

**complain** [kəmˈpleɪn] v. 1. жáліцца, наракáць: ***to complain of a headache*** наракáць на боль галавы́. 2. скáрдзіцца

**complaint** [kəmˈpleɪnt] n. 1. жáльба *f.*, наракáньне *n.*: ***I have no complaint to make*** Мне нямá на што наракáць. 2. незадавальнéньне *n.* 3. фізы́чнае недамагáньне, хварóба *f.*: ***A cold is a very common complaint*** Застýда вéльмі распаўсю́джанае недамагáньне. 4. абвінавáчваньне *f.*, судóвая скáрга: ***to lodge/make a complaint*** падáць скáргу

**complaisance** [kəmˈpleɪsəns] n.1. лагóднасьць, паслýжлівасьць *f.*; вéтлівасьць *f.* 2. устýпчывасьць *f.*

**complaisant** [kəmˈpleɪsənt] adj. 1. прывéтлівы, ласкáвы, паслýжлівы; рахмáны. 2. устýпчывы, падáтлівы

**complement** [ˈkɑːmpləmənt] – n. 1. дапаўнéньне *n.* 2. Gram. выказáльнае слóва (*у выкáзьніку*). 3. Geom. дапаўнéньне (*да прóстага кутá*). 4. камплéкт -у *m.*: ***The factory has a complement of workers*** Фáбрыка мáе пóўны штат працаўнікóў

– v.t. дапаўня́ць, укамплектóўваць

**complete** [kəmˈpliːt] – adj. 1. пóўны, цэ́лы: ***complete set of works*** пóўны збор твóраў. 2. увéсь, уся́, усё; цэ́лы: ***to devote a complete day to studies*** прысьвяціць цэ́лы дзень навýцы. 3. скóнчаны, зрóблены. 4. пóўны, абсалю́тны: ***a complete surprise (happiness)*** пóўная неспадзéўка

– v.t. 1. закóнчыць, скóнчыць, завяршы́ць. 2. дапóўніць, укамплектавáць

**completely** [kəmˈpliːtli] adv. 1. зусíм. 2. цалкóм, цáлкам, пóўнасьцю; дашчэ́нту

**complex** – adj. [ˌkɑːmˈpleks] 1. скамплікавáны. 2. складáны

– n. [ˈkɑːmpleks] 1. кóмплекс, грýпа будынкаў. 2. Psych. кóмплекс -у *m.*: ***inferiority complex*** камплéкс непаўнавáртасьці

**complexion** [kəmˈplekʃən] n. 1. кóлер твáру. 2. агýльны вы́гляд; харáктар -у *m.*

**complexity** [kəmˈpleksəti] n., pl. **-ties** 1. складáнасьць, заблы́танасьць *f.* 2. складáны прадмéт

**compliance** [kəmˈplaɪəns] n. 1. устýпчывасьць, падáтлівасьць, пакóрлівасьць *f.* 2. выканáньне *n.* (*жадáньня, загáду*); падпарáдкаваньне *n.*: ***in compliance with his orders*** згóдна, адпавéдна зь ягóным загáдам

**compliant** [kəmˈplaɪənt] adj. устýпчывы, падáтлівы, згавóрлівы

**complicate** [ˈkɑːmpləkeɪt] v.t. 1. ускладня́ць; блы́таць. 2. пагóршваць, пагаршáць

**complicated** [ˈkɑːmpləkeɪtəd] adj. складáны; цяжкí; заблы́таны: ***a complicated design*** складáны ўзóр; ***complicated negotiations*** складáныя перамóвы

**complication** [ˌkɑːmpləˈkeɪʃən] n. 1. склáданасьць *f.* 2. ускладнéньне *n.*

**complicity** [kəmˈplɪsəti] – n., pl. **-ties** саўдзéл -у *m.*

**compliment** [ˈkɑːmpləmənt] n. камплімэ́нт -у *m.*, пахвалá *f.*: ***to pay a compliment*** зрабíць камплімэ́нт, пахвалíць; ***to fish for compliments*** напрóшвацца на камплімэ́нты

– v. 1. хвалíць; вітáць, віншавáць. 2. даравáць (*з прызнáньнем*)

**complimentary** [ˌkɑːmpləˈmentəri] adj. 1. пахвáльны; прывітáльны. 2. дáдзены бясплáтна (*кнíга, білéт*)

**comply** [kəmˈplaɪ] v.i. 1. згаджáцца; падпарадкóўвацца. 2. трымáцца фóрмаў вéтлівасьці

**component** [kəmˈpoʊnənt] – n. кампанэ́нт -а *m.*, складóвая чáстка; элемэ́нт -а *m.*

– adj. складóвы

**compose** [kəmˈpoʊz] v. 1. складáць. 2. складáць (*верш, плян*), кампанавáць (*мýзыку*). 3. Print., Brit. набірáць (*тэкст*). 4. супакóйвацца: ***Compose yourself!*** Супакóйся! Трымáй сябé ў рукáх!

**composed** [kəmˈpoʊzd] adj. супакóйны; цíхі; стры́маны

**composer** [kəmˈpoʊzər] n. 1. склада́льнік -а *m.* 2. кампазы́тар -а *m.* 3. а́ўтар -а *m.*

**composing machine,** Brit. набо́рная машы́на

**composing room,** Brit. набо́рны цэх

**composite** [kəmˈpɑ:zət] – adj. 1. скла́дзены з ро́зных ча́стак; склада́ны. 2. Bot. склада́нацьве́тны
– n. су́месь *f.*
• ***composite number*** склада́ны лік

**composition** [ˌkɑ:mpəˈzɪʃən] n. 1. уклада́ньне *n.*; тво́рапіс, твор -у *m.* 2. кампазы́цыя *f.* 3. пабудо́ва *f.*, склада́ньне *n.* 4. склад -у *m.*

**compositor** [kəmˈpɑ:zətər] n., Brit. набо́ршчык -а *m.*

**compost** [ˈkɑ:mpoʊst] – n. кампо́ст -у *m.*
– v.t. 1. рабі́ць кампо́ст. 2. угно́йваць кампо́стам

**composure** [kəmˈpoʊʒər] n. 1. стры́манасьць *f.*, самавало́даньне *n.* 2. спако́йнасьць *f.*

**compote** [ˈkɑ:mpoʊt] n. 1. кампо́т -у *m.* 2. ва́зачка на садаві́ну, уке́ркі

**compound I** [ˈkɑ:mpaʊnd] – adj. 1. склада́ны. 2. Gram. а) склада́нае сло́ва. б) склада́на-злу́чаны сказ
– n. 1. су́месь *f.* 2. Chem. злучэ́ньне *n.* 3. склада́нае сло́ва
– v. 1. злуча́ць. 2. ускладня́ць: ***to compound the problem*** ускладні́ць прабле́му

**compound II** [ˈkɑ:mpaʊnd] n. гру́па буды́нкаў, ко́мплекс -у *m.*

**comprehend** [ˌkɑ:mprɪˈhend] v. 1. разуме́ць; ця́міць, ке́міць. 2. абыма́ць (*абша́р*); зьмяшча́ць

**comprehensibility** [ˌkɑ:mprɪˌhensəˈbɪləti] n. зразуме́ласьць, я́снасьць *f.*

**comprehensible** [ˌkɑ:mprɪˈhensəbəl] adj. зразуме́лы

**comprehension** [ˌkɑ:mprɪˈhenʃən] n. 1. разуме́ньне *n.*; ке́млівасьць, ке́мкасьць, ця́млівасьць *f.* 2. ахо́пліваньне, улучэ́ньне, уключэ́ньне *n.*

**comprehensive** [ˌkɑ:mprɪˈhensɪv] adj. 1. шыро́кі, вялі́кі, вялі́кага аб'ёму; вычарпа́льны, усебако́вы, по́ўны: ***a comprehensive review*** вычарпа́льны агля́д. 2. ця́млівы, ке́млівы, ке́мны (*чалаве́к*); праніклівы (*ро́зум*)

**compress** [kəmˈpres] v. 1. сьціска́ць. 2. згушча́ць пад ці́скам, кандэнсава́ць

**compressed** [kəmˈprest] adj. сьці́снуты; зьме́ншаны пад ці́скам, згу́шчаны

**compressed air** згу́шчанае паве́тра

**compressibility** [kəmˌpresəˈbɪləti] n. сьціска́льнасьць *f.*

**compressible** [kəmˈpresəbəl] adj. які́ мо́жна сьці́снуць

**compression** [kəmˈpreʃən] n. сьціска́ньне *n.*, сьціск -у *m.*

**comprise** [kəmˈpraɪz] v. зьмяшча́ць у сабе́, уключа́ць, склада́цца з; абдыма́ць

**compromise** [ˈkɑ:mprəmaɪz] – n. 1. кампамі́с -у *m.*, састу́пка *f.* 2. кампрамі́тацыя *f.*
– v. 1. ісьці́ на кампамі́с. 2. кампраміта ва́ць, ста́віць пад падо́зраньне; рызыкава́ць
– adj. кампамі́сны; зго́дніцкі, прымірэ́нчы

**comptroller** [kənˈtroʊlər] n. ура́давы фіна́нсавы кантралёр

**compulsion** [kəmˈpʌlʃən] n. 1. по́цяг -у *m.* 2. прыну́ка *f.*: ***under compulsion*** пад прыну́кай, вы́мушаны

**compulsory** [kəmˈpʌlsəri] adj. 1. прымусо́вы, абавя́зкавы: ***compulsory education*** абавя́зкавае навуча́ньне. 2. накі́нуты, навя́заны сі́лаю

**compunction** [kəmˈpʌŋkʃən] n. 1. дако́ры сумле́ньня. 2. шкадава́ньне *n.*, жаль -ю *m.*; спага́да *f.*: ***without compunction*** бяз жа́лю, без спага́ды

**computation** [kɑ:mpjəˈteɪʃən] n. 1. выліча́нь не, падліча́ньне, лічэ́ньне *n.*: ***Addition and subtraction are forms of computation*** Склада́ньне й адыма́ньне — ві́ды вылічэ́ньня. 2. падлі́к, лік -у *m.*

**compute** [kəmˈpju:t] v. 1. падлі́чваць; выліча́ць. 2. лічы́ць

**computer** [kəmˈpju:tər] n. электро́нная вылічáльная машы́на; кампу́тар, камп'ю́тар -а *m.*

**comrade** [ˈkɑːmræd] n. 1. тава́рыш -а *m.*; ся́бр|а -ы *m.* 2. напа́рнік -а *m.*, ся́бра, кале́га па пра́цы

**comradeship** [ˈkɑːmrædʃɪp] n. сябро́ў-ства *n.*, пры́язьнь *f.*, тава́рыскія да-чыне́ньні

**con I** [kɑːn] adv. супро́ць: ***pro and con*** за й супро́ць

**con II** [kɑːn] v. стара́нна вывуча́ць, зуб-ры́ць

**con III** [kɑːn] v., Sl. ашу́кваць, махля-ва́ць

**concave** [kɑːnˈkeɪv] – adj. увагну́ты, угну́ты: ***a concave lens*** увагну́тая лі́нза
– v.t. угіна́ць

**concavity** [kɑːnˈkævəti] n., pl. **-ties** 1. увагну́тасьць, угну́тасьць *f.* 2. ува-гну́тая паве́рхня, упа́дзіна *f.*

**concavo-concave** [kɑːnˌkeɪvoukɑːnˈkeɪv] adj. увагну́ты з або́двух бако́ў (*лі́нза*)

**concavo-convex** [kɑːnˌkeɪvoukɑːnˈveks] adj. увагну́та-выпу́клы (*лі́нза*)

**conceal** [kənˈsiːl] v. хава́ць, прыхо́ў-ваць. 2. уто́йваць|ь (-ца); таіць|ь (-ца)

**concealed** [kənˈsiːld] adj. 1. схава́ны, прыхава́ны. 2. уто́ены, зато́ены. 3. та́йны

**concealment** [kənˈsiːlmənt] n. 1. хава́нь-не, уто́йваньне, зато́йваньне *n.* 2. пата-е́мнае ме́сца, та́йнік -а *m.*; схо́ванка *f.*

**concede** [kənˈsiːd] v. 1. саступа́ць, пры-знава́ць: ***I conceded that I have made a mistake*** Я прызна́ў, што зрабі́ў па-мы́лку. 2. саступа́ць, дазваля́ць, зда-ва́ць; прызнава́ць: ***to concede the game*** здаць гульню́, прызна́ць пара́-зу; ***The candidate conceded the elec-tion*** Кандыда́т прызна́ў пара́зу ў вы́-барах

**concededly** [kənˈsiːdɪdli] adv. папра́ў-дзе, пра́ўду ка́жучы; сапраўды́

**conceit** [kənˈsiːt] n. 1. зазна́йства *n.*, са-манадзе́йнасьць, самаздаво́ленасьць, пы́ха *f.*: ***He is full of conceit*** Ён залі́ш-не самаздаво́лены. 2. капры́з -у *m.*

**conceited** [kənˈsiːtɪd] adj. саманадзе́й-ны, самапэ́ўны, самаўпэ́ўнены, сама-здаво́лены

**conceivable** [kənˈsiːvəbəl] adj. дасту́пны ро́зуму, зразуме́лы, магчы́мы: ***eve-ry conceivable precaution against fire*** уся́кая магчы́мая засьцяро́га ад пажа́ру

**conceive** [kənˈsiːv] v. 1. прыду́мваць, заду́мваць: ***a well conceived scheme*** до́бра заду́маны плян. 2. уяўля́ць, ду́маць. 3. выка́зваць, перадава́ць сло́вамі. 4. зацяжа́рваць, зачына́ць

**concentrate** [ˈkɑːnsəntreɪt] – v. 1. зьбі-ра́ць, засяро́джваць, канцэнтрава́ць. 2. згушча́ць, насыча́ць раство́ры, выпа́рваць. 3. ачышча́ць руду́ ад пяску́, каме́ньня, абагача́ць (*руду́*). 4. (on, upon) засяро́джвацца, скан-цэнтро́ўвацца (*ду́мкай*)
– n. канцэнтра́т -у *m.*

**concentration** [ˌkɑːnsənˈtreɪʃən] n. 1. за-сяро́джаньне *n.* (*сі́лаў, намага́нь-няў*), канцэнтра́цыя *f.*; абагача́ньне (*руды́*). 2. засяро́джаная ўва́га. 3. моц *f.*, мацу́н|ак -ку *m.* (*раство́ру*). 4. Milit. групо́ўка *f.*, канцэнтрава́ньне збро́йных сі́лаў
• ***concentration camp*** канцэнтрацы́й-ны ля́гер

**concentric** or **concentrical** [kənˈsentrɪk] adj. канцэнтры́чны: ***concentric cir-cles*** ко́лы, акру́жнасьці, які́я ма́юць супо́льны цэ́нтар

**concept** [ˈkɑːnsept] n. агу́льнае паня́ць-це, паймо́ *n.*; ідэ́я *f.*; уяўле́ньне *n.*: ***the concept of equality*** паня́цьце ро́ўнасьці

**conception** [kənˈsepʃən] n. 1. разуме́нь-не *n.*: ***It is beyond my conception*** Гэ́-та вышэ́й за маё разуме́ньне. 2. ду́м-ка, канцэ́пцыя *f.* 3. Philos. агу́льнае паня́цьце, ідэ́я *f.* 4. плян, пра́ект -у *m.*, за́дума *f.* 5. зача́цьце, апладне́нь-не *n.*

**conceptional** [kənˈsepʃənəl] adj. канцэп-туа́льны, паня́цьцевы

**concern** [kənˈsɜːrn] – v. 1. даты́чыць, мець дачыне́ньне: ***It concerns nobo-dy but me*** Гэ́та апрача́ мяне́ ніко́га не даты́чыць. 2. ру́півца; турбава́цца, не-

пакóіцца: ***to be concerned about the future*** дбаць пра бýдучыню; ***as far as I am concerned*** што да мяне́
– n. 1. спрáва, якáя нéкага датычыцца: ***It is none of my concern*** Гэ́та не мая́ спрáва. 2. дачынéньне *n.*: ***have little concern with something*** мець мáла дачынéньня да *чагó*. 3. непакóй -ю *m.*, турбóта, трывóга *f.*, хвалявáньне *n.* 4. канцэ́рн -у *m.*, гандлёвая фірма, кампáнія, прадпрыёмства *n.*
• ***concern oneself in*** цікáвіцца *чым*; займáцца *чым*
• ***concern oneself about*** турбавáцца аб *кім-чым*, непакóіцца, хвалявáцца
• ***of concern*** вялікай вáжнасьці: ***matter of great concern*** вéльмі вáжная спрáва

**concerned** [kən'sɜ:rnd] adj. 1. зьвязáны, заня́ты; зацікáўлены: ***concerned parties*** зацікáўленыя бакі́. 2. заклапóчаны

**concerning** [kən'sɜ:rnɪŋ] prep. пра *кагó-штó*, што да *кагó-чагó*, у дачынéньні да *кагó-чагó*: ***concerning me*** што ты́чыцца мяне́

**concert** ['kɑ:nsərt] – n. 1. канцэ́рт -у *m.* 2. згóда *f.*; пагаднéньне *n.*; дамóўленасьць *f.*: ***in concert with the associates*** у дамóўленасьці з супóльнікамі; ***in concert*** усé рáзам, супóльна, згóдна з дамóўленасьцю. 3. злáджанасьць *f.*, сулáднасьць музы́чных гýкаў
– adj. 1. канцэ́ртны (*зáля*): ***a concert pianist*** піяні́ст, які́ дае́ канцэ́рты
– v. [kən'sɜ:rt] 1. дамаўля́цца, пагаджáцца. 2. супóльна плянавáць *абó* выкóнваць нéшта

**concerted** [kən'sɜ:rtɪd] adj. 1. узаéмна ўзгóднены, дапасавáны. 2. супóльна плянавáны *абó* зрóблены; спалýчаны: ***a concerted attack*** атáка спалýчанымі сíламі. 3. Mus. падзéлены на кóлькі галасóў *абó* інструмэ́нтаў

**concession** [kən'seʃən] n. 1. састýпка *f.*: ***make concessions*** íсьці на састýпкі. 2. канцэ́сія *f.*

**concessive** [kən'sesɪv] adj. 1. канцэсíйны. 2. устýпліvы, падáтлівы; прымірэ́нчы (*тон*). 3. Gram. уступáльны: ***"though" is a concessive word*** «хоць» — уступáльнае слóва

**conch** [kɑ:ŋk] n., pl. **conchs** or **conches** 1. Zool. сьлізьня́к -á *m.*; малю́ск -а *m.* 2. рáкавіна *f.* 3. Arch. a) скляпéньне кýпала. б) абсы́да *f.*

**concha** ['kɑ:ŋkə] n., pl. **-chae** Anat. вушнáя рáкавіна

**conciliar** [kən'sɪliər] adj. сабóрны

**conciliate** [kən'sɪlieɪt] v. 1. прымірáць, улагóджваць. 2. дабівáцца прабачэ́ньня, здабывáць, заваёўваць прыхíльнасьць, пашáну. 3. пагаджáць (*рóзныя пагля́ды*)

**conciliation** [kənˌsɪli'eɪʃən] n. пагаднéньне, прымірэ́ньне *n.*

**conciliatory** [kən'sɪliətɔ:ri] adj. прымірэ́нчы (*тон, настрóй*)

**concise** [kən'saɪs] adj. 1. сьцíслы, карóткі. 2. вырáзны, даклáдны

**conciseness** [kən'saɪsnəs] n. сьцíсласьць *f.*; даклáднасьць *f.*

**conclave** ['kɑ:nkleɪv] n. 1. закры́тае *абó* таéмнае пасéджаньне. 2. канкля́ў -ву *m.*

**conclude** [kən'klu:d] v. 1. канчáць, закóнчваць (*пасéджаньне, прамóву*). 2. заключáць (*умóву, мір*), рабíць высновý. 3. пастанаўля́ць, вырашáць ***I concluded not to go*** Я пастанáвіў ня йсьці. 4. канчáцца, закóнчвацца: ***The book concluded happily*** Кнíга закóнчылася шчасьлíва: ***to conclude*** такíм чы́нам (*у канцы́ прамóвы*)

**concluding** [kən'klu:dɪŋ] adj. апóшні, заклю́чны (*канцэ́рт, слóва*)

**conclusion** [kən'klu:ʒən] n. 1. канéц -цá *m.*, заканчэ́ньне *n.*; апóшняя чáстка. 2. заклю́чная чáстка (*твóру, прамóвы*). 3. вы́нік -у *m.* 4. заключэ́ньне *n.* (*умóвы, мíру*). 5. выснóва, пастанóва *f.*: ***to jump to a conclusion*** рабíць пасьпéшную выснóву, забягáць напéрад
• ***in conclusion*** у заключэ́ньні, на-

рэ́шчэ

**conclusive** [kən'klu:sıv] adj. заклю́чны; выраша́льны; пераканáўчы (*до́каз*)

**concomitant** [kən'kɑ:mətənt] – adj. суправаджа́льны, спадаро́жны: ***a concomitant result*** суправаджа́льны вы́нік

– n. суправаджа́льныя акалі́чнасьці

**concord** ['kɑ:nkɔ:rd] n. 1. зго́да *f.*; лад -у *m.*, сула́дзьдзе *n.* 2. палітычная ўмо́ва, тракта́т -у *m.* 3. Mus. сула́днасьць *f.*, кансана́нс -у *m.*, гармо́нія *f.* 4. Gram. дапасава́ньне *n.*

**concordance** [kən'kɔ:rdəns] n. 1. зго́днасьць, зго́да *f.* 2. канкарда́нс -у *m.*, слоўнік (*а́ўтара, тво́ру*)

**concordant** [kən'kɔ:rdənt] adj. зго́дны, супада́льны; сула́дны, гармані́чны

**concourse** ['kɑ:nkɔ:rs] n. 1. нато́ўп, гурт -у́ *m.*, гу́рба *f.* 2. зьліцьцё *n.*, злучэ́ньне ў адно́ цэ́лае: ***at the concourse of two rivers*** пры зьлі́цьці дзьвюх рэ́чак. 3. пляц -у *m.*, пло́шча *f.* 4. гало́ўны вэстыбю́ль вакза́лу. 5. пад'е́зд -у *m.*, даро́га (*пад ха́ту*), бульва́р -у *m.*

**concrescence** [ˌkɑ:n'kresəns] n. зраста́ньне *n.*, зрост -у *m.*

**concrete** ['kɑ:nkri:t] – adj. 1. канкрэ́тны, рэчаі́сны; рэа́льны. 2. цьвярды́, зацьвярдзе́лы (*рэ́чыва*) 3. [kɑ:n'kri:t] бэто́нны: ***a concrete sidewalk*** бэто́нны хо́днік.

– n. 1. бэто́н -у *m.* 2. канкрэ́тнае паня́цьце, ідэ́я *або́* тэ́рмін

– v.t. заліва́ць бэто́нам, пакрыва́ць бэто́нам

– v.i. 1. цьвярдзе́ць. 2. застыва́ць. 3. бэтанава́ць

**concrete mixer** бэтонамяша́лка *f.*

**concretion** [kən'kri:ʃən] n. 1. зацьвярдзе́ньне, застыва́ньне, згуса́ньне *n.* 2. Med. камяні́ (*у ны́рках, жо́ўцевыя*)

**concubine** ['kɑ:ŋkjubaın] n. нало́жніца, палюбо́ўніца *f.*

**concupiscence** [kɑ:n'kju:pısəns] n. юрлі́васьць, пажа́длівасьць, жадо́ба *f.*, юр -у *m.*

**concupiscent** [kɑ:n'kju:pısənt] adj. юрлі́вы, пажа́длівы

**concur** [kən'kɜ:r] v. 1. супада́ць, прыхо́дзіць ра́зам. 2. згаджа́цца, быць тае́ са́мае ду́мкі. 3. спрыя́ць (*пра абста́віны*)

**concurrence** [kən'kɜ:rəns] n. 1. зго́днасьць *f.* 2. супадзе́ньне *n.* (*у ча́се, пагля́дах*). 3. спрыя́ньне *n.*

**concurrent** [kən'kɜ:rənt] – adj. 1. супада́льны, аднача́сны. 2. спрыя́льны. 3. Geom. які́я сыхо́дзяцца ў адны́м пу́нкце. 4. зго́дны (*у пагля́дзе*)

– n. 1. аднача́сная падзе́я. 2. канкурэ́нт -а *m.*

**concuss** [kən'kʌs] v. 1. трэ́сьці, страса́ць. 2. выкліка́ць зрушэ́ньне мазго́ў

**concussion** [kən'kʌʃən] n. 1. рапто́ўнае страсе́ньне. 2. зрушэ́ньне мазго́ў, канту́зія *f.*

**condemn** [kən'dem] v.t. 1. асуджа́ць; ганьбава́ць, га́ніць. 2. прызнава́ць вінава́тым. 3. прысуджа́ць, выно́сіць прысу́д, засуджа́ць: ***to condemn to death*** засуджа́ць на сьмерць. 4. бракава́ць; прызнава́ць непрыда́тным (*будынак, мост*)

**condemnation** [ˌkɑ:ndəm'neıʃən] n. 1. прысу́д -у *m.*; асуджэ́ньне *n.* 2. прызна́ньне непрыда́тным, зага́нным

**condemnatory** [kən'demnətɔ:ri] adj. абвінава́ўчы (*прысу́д, прамо́ва*); асуджа́льны (*по́зірк*)

**condemned** [kən'demd] adj. прызна́ны вінава́тым; засу́джаны, асу́джаны

**condensability** n. згушча́льнасьць *f.*

**condensation** [ˌkɑ:nden'seıʃən] n. 1. згушча́ньне, ушчыльня́ньне *n.*, кандэнса́цыя *f.* 2. згушчэ́ньне, ушчыльне́ньне *n.* 3. згу́шчаная ма́са

**condense** [kən'dens] v.t. 1. згушча́ць|ь (ца), ушыльня́ць|ь (-ца); кандэнсава́ць. 2. сьці́сла выка́зваць ду́мку, скарача́ць: ***He condensed the paragraph into one sentence*** Ён пераказа́ў пара́граф адны́м ска́зам. 3. ператвара́ць газ *або́* па́ру ў ва́дкасьць; ператвара́цца ў ва́дкасьць, кандэнсава́цца

**condensed** [kənˈdenst] adj. 1. сьцíсла вы́казаны, скаро́чаны: ***condensed story*** скаро́чанае апавяда́ньне. 2. згу́шчаны: ***condensed milk*** згу́шчанае малако́. 3. ператво́раны ў ва́дкасьць

**condenser** [kənˈdensər] n. кандэнса́тар -а *m.*

**condescend** [ˌkɑ:ndɪˈsend] v.i. 1. ста́віцца пабла́жліва, рабíць ла́ску. 2. удасто́іць (*ласка́вым сло́вам*), ласка́ва дазво́ліць. 3. прынíжа́цца (*да благо́га ўчы́нку*)

**condescendence** [ˌkɑ:ndɪˈsendəns] n. пабла́жка *f.*; ла́ска *f.*

**condescending** [ˌkɑ:ndɪˈsendɪŋ] adj. 1. пабла́жлівы. 2. апяку́нскі (*тон*)

**condescension** [ˌkɑ:ndɪˈsenʃən] n. 1. паблажліва́сьць (*да ніжэ́йшых*), пабла́жка *f.* 2. апяку́нскае ста́ўленьне

**condign** [kənˈdaɪn] adj. заслу́жаны, адпаве́дны: ***condign punishment*** заслу́жаная ка́ра

**condition** [kənˈdɪʃən] – n. 1. стан -у *m.*: ***in poor condition*** у благíм ста́не. 2. Sport фо́рма *f.*: ***in (out of) condition*** у до́брай (благо́й) фо́рме. 3. прыда́тнасьць (*да пра́цы, про́дажу*). 4. сацыя́льнае стано́вішча; ранг -у *m.*: ***a man of humble condition*** чалаве́к сьцíплага пахо́джаньня. 5. абста́віны *pl.* 6. умо́ва *f.*; акалíчнасьць *f.*

– v.1. прыво́дзіць у до́бры стан, у до́брую фо́рму. 2. быць умо́вай. 3. абумо́ўліваць

• ***on condition that*** пад умо́вай, што; калí

• ***under a condition*** умо́ўна

**conditional** [kənˈdɪʃənəl] – adj. умо́ўны; зале́жны (*ад не́чага*)

– n., Gram. умо́ўны сказ, лад або́ злу́чнік

**conditioned** [kənˈdɪʃənd] adj. 1. умо́ўны, абумо́ўлены, зале́жны ад *чаго́*: ***conditioned reflex*** умо́ўны рэфле́кс. 2. адпаве́дны но́рмам

**conditionally** [kənˈdɪʃənəli] adv. умо́ўна, з умо́вай

**conditioner** [kənˈdɪʃənər] n. 1. сро́дак для пале́пшаньня, аздараўле́ньня: ***a hair conditioner*** сро́дак для аздараўле́ньня валасо́ў. 2. Informal кандыцыянэ́р паве́тра

**condole** [kənˈdoʊl] v.i. спачува́ць; выка́зваць спачува́ньні

**condolence** [kənˈdoʊləns] n. спачува́ньні *pl.*

**condominium** [ˌkɑ:ndəˈmɪniəm] n. 1. кандамíніюм -у *m.* 2. ула́сная кватэ́ра ў агу́льнай буды́ніне

**condonation** [ˌkɑ:ndəˈneɪʃən] n. прабачэ́ньне, дарава́ньне *n.*

**condone** [kənˈdoʊn] v.t. 1. прабача́ць, забыва́ць (правíну, абра́зу), дарава́ць (*правíну*). 3. Law прабача́ць (*парушэ́ньне жанíмскае прыся́гі*)

**conduce** [kənˈdu:s] v.i. садзе́йнічаць; спрыя́ць

**conducive** [kənˈdu:sɪv] adj. 1. кары́сны, спрыя́льны: ***to be conducive to good health*** быць кары́сным для здаро́ўя. 2. які́ вядзе́ да не́чага

**conduct** [ˈkɑ:ndʌkt] – n. 1. трыма́ньне *n.*, паво́дзіны *pl. only.* 2. кірава́ньне, вядзе́ньне *n.* (*спра́вай*). 3. настаўле́ньне, указа́ньне *n.*, нака́з -у *m.*

– v.t. [kənˈdʌkt] 1. трыма́цца. 2. кірава́ць (*устано́вай*); дырыгава́ць (*арке́страм*). 3. право́дзіць, суправаджа́ць. 4. быць праваднíко́м (*для экску́рсіі*). 5. Phys. служы́ць праваднíко́м, право́дзіць (*цеплыню́, эле́ктрыку*)

**conduction** [kənˈdʌkʃən] n. 1. Phys. а) право́джаньне (*цеплыні́, то́ку*). б) право́днасьць *f.* 2. прапушча́ньне (*напр. вады́ праз трубу́*), рух (*вады́ па трубе́*)

**conductor** [kənˈdʌktər] n. 1. праваднíк -а́ *m.* (*на чыгу́нцы*); канду́ктар -а *m.* (*на аўто́бусе, трамва́і*); кіраўнíк -а́, праваднíк -а́ *m.*: ***the conductor of a tour*** кіраўнíк падаро́жжа, экскурсаво́д. 2. дырыге́нт -а *m.*, дырыжо́р -а *m.* (*арке́стру*), капэльма́йст|ар -ра *m.* 3. Phys. праваднíк -а́ *m.* (*цяпла́, эле́ктры́чнага то́ку*)

**conduit** [ˈkɑ:nduət] n. 1. кана́л -у *m.*; трубаправо́д; вадаправо́д -у *m.*, аквэду́к -у *m.* 2. ізаляцы́йная тру́бка

**cone** [koʊn] – n. 1. ко́нус -а *m.* 2. Bot. шы́шка *f.*

– v. надава́ць фо́рму ко́нуса

**coney** [ˈkoʊni] n., pl. **-neys** *гл.* **cony**

**confection** [kənˈfekʃən] n. 1. сало́дкія (канды́тарскія) вы́рабы (*цуке́ркі, канфіту́ры*). 2. канфэ́кцыя *f.*, гато́вае жано́чае адзе́ньне

**confectioner** [kənˈfekʃənər] n. цуке́рнік -а, канды́тар -а *m.*: ***confectioner's sugar*** цукро́вы парашо́к

**confectionery** [kənˈfekʃəneri] n., pl. **-eries** 1. канды́тарскія выра́бы. 2. кандытэ́рыя, цуке́рня *f.*

**confederacy** [kənˈfedərəsi] n., pl. **-cies** 1. канфэдэра́цыя *f.* (*дзяржа́ваў або́ асо́баў*). 2. кансьпіра́цыя, змо́ва *f.* 3. згуртава́ньне *n.*, саю́з -у *m.*, лі́га *f.*

• ***the Confederacy*** гру́па адзінаццаці паўдзённых шта́таў, якія ў 1860-61 гг. адлучы́ліся ад ЗША

**confederate** [kənˈfedərət] – adj. саю́зьніцкі, фэдэра́льны

– n. 1. саю́зьнік -а *m.* 2. саўдзе́льнік (*у злачы́нстве*)

– v. [kənˈfedəreɪt] злуча́цца ў канфэдэра́цыю

**confederation** [kənˌfedəˈreɪʃən] n. 1. a) задзіно́чваньне, лучэ́ньне ў лі́гу. б) фэдэра́цыя *f.* 2. лі́га *f.*, саю́з -у *m.*, канфэдэра́цыя *f.*

• ***Confederation*** Канады́йская Канфэдэра́цыя (*задзіно́чаньне Анта́рыё, Квэбэ́ку, Но́вай Шко́цыі й Нью Бра́нсўіку, яко́е дало́ пача́так Кана́дзе*)

• ***the Confederation*** задзіно́чаньне трынаццацёх амэрыка́нскіх штата́ў паво́дле Палажэ́ньняў 1781-89 гг.

**confer** [kənˈfɜ:r] – v.i. **-ferred, -ferring** ра́іцца, ра́дзіцца, мець нара́ду, ве́сьці кансульта́цыі

– v.t. дава́ць (*мэда́ль*); надава́ць, прысуджа́ць (*ступе́нь, узнагаро́ду*)

**conferee** [ˌkɑ:nfəˈri:] n. 1. удзе́льнік канфэрэ́нцыі. 2. асо́ба, яко́й дае́цца ўзнагаро́да, ступе́нь

**conference** [ˈkɑ:nfərəns] n. нара́да, канфэрэ́нцыя *f.*

**confess** [kənˈfes] v. 1. прызнава́ць (*віну́, сла́басьць*); выдава́ць (*сакрэ́т*). 2. спавяда́цца (*сьвятару́*). 3. спавяда́ць (*пра сьвятара́*)

**confession** [kənˈfeʃən] n. 1. прызна́ньне *n.* (*віны́*). 2. спо́ведзь *f.* 3. веравызна́ньне *n.*

**confessor** [kənˈfesər] n. 1. спавяда́льнік -а *m.* (*сьвята́р*). 2. спаве́днік -а *m.*, асо́ба, яка́я прызнае́цца. 3 пасьлядо́ўнік яко́е-н. ве́ры

**confetti** [kənˈfeti] n. канфэці́, *n., indecl.*

**confidant** [ˈkɑ:nfɪdænt] n. 1. даве́раная асо́ба. 2. сардэ́чны ся́бра

**confidante** [ˈkɑ:nfɪdænt] n. сардэ́чная сябро́ўка

**confide** [kənˈfaɪd] v. 1. давяра́ць, адкрыва́цца, дзялі́цца (*сакрэ́там, кло́патамі*). 2. даруча́ць, аддава́ць пад апе́ку

**confidence** [ˈkɑ:nfɪdəns] n. 1. ве́ра, упэ́ўненасьць *f.*; даве́р -у *m.*: ***with full confidence in victory*** з по́ўнай ве́рай у перамо́гу. 2. самапэ́ўнасьць *f.* 3. адва́га *f.*; зухва́льства *n.*

• ***take into one's confidence*** уве́сьці не́кага ў даве́р

**confident** [ˈkɑ:nfɪdənt] – adj. 1. пэ́ўны, перакана́ны. 2. саманадзе́йны. 3. зана́дта пэ́ўны, зухва́лы

– n. блі́зкі, даве́раны ся́бра; блі́зкая сябро́ўка

**confidential** [ˌkɑ:nfɪˈdenʃəl] adj. 1. сакрэ́тны, канфідэнцы́йны: ***a confidential report*** сакрэ́тная справазда́ча. 2. пэ́ўны. 3. даве́раны, які́ карыстае́цца даве́рам: ***a confidential secretary*** даве́раны сакрата́р

**confidentiality** [ˌkɑ:nfəˌdenʃiˈæləti] n. сакрэ́тнасьць, канфідэнцы́йнасьць *f.*

**confidentially** [ˌkɑ:nfɪˈdentʃəli] adv. пад сакрэ́там, канфідэнцы́йна

**confiding** [kənˈfaɪdɪŋ] adj. даве́рлівы

**configuration** [kənˌfɪgjəˈreɪʃən] n. 1. канфігура́цыя, структу́ра *f.*; фо́рма *f.*, абры́с -у *m.* 2. сыстэ́ма (*нябе́сных це́лаў*)

**confine** [kənˈfaɪn] – v.t. 1. абмяжо́ўваць, абмяжо́ўвацца. 2. трыма́ць унутры́: ***A cold confined him to the house*** Прасту́да трыма́е яго́ ў ха́це; ***to be confined to bed*** быць прыкава́ным да ло́жка. 3. саджа́ць у турму́, зьняво́льваць
– n. often ***confines*** ме́жы; дзяржа́ўная мяжа́

**confined** [kənˈfaɪnd] adj. 1. зьняво́лены, пало́нены. 2. абмежава́ны

**confinement** [kənˈfaɪnmənt] n. 1. абмежава́ньне *n.* 2. зьняво́леньне *n.*; а́рышт -у *m.* 3. ро́ды *pl. only*

**confirm** [kənˈfɜ:rm] v.t. 1. пацьвярджа́ць, сьцьвярджа́ць. 2. ратыфікава́ць (*умо́ву*). 3. падмацо́ўваць, падтры́мваць. 4. Relig. канфірмава́ць

**confirmation** [ˌkɑ:nfərˈmeɪʃən] n. 1. пацьве́рджаньне *n.* 2. умацава́ньне, замацава́ньне *n.* 3. ратыфіка́цыя *f.* (*умо́вы*). 4. Relig. канфірма́цыя *f.*

**confirmative** [kənˈfɜ:rmətɪv] adj. пацьвярджа́льны

**confirmed** [kənˈfɜ:rmd] adj. 1. пацьве́рджаны, даве́дзены, абгрунтава́ны. 2. закаране́лы (*манью́ка*), заўзя́ты (*п'я́ніца*). 3. храні́чны: ***a confirmed invalid*** храні́чны кале́ка

**confiscate** [ˈkɑ:nfɪskeɪt] v.t. канфіскава́ць, рэквізава́ць

**confiscation** [ˌkɑ:nfɪsˈkeɪʃən] n. канфіска́цыя, рэквізы́цыя *f.*

**conflagrate** [ˈkɑ:nfləgreɪt] – v.i. загара́цца, выбуха́ць агнём, гарэ́ць
– v.t. падпа́льваць, спа́льваць

**conflagration** [ˌkɑ:nfləgˈreɪʃən] n. вялі́кі пажа́р, пажа́рышча *n.*

**conflict** [ˈkɑ:nflɪkt] – n. 1. змага́ньне *n.*, канфлі́кт -у *m.* 2. разыхо́джаньне *n.*, супярэ́чнасьць *f.*, калі́зія *f.*: ***conflict of opinions*** супярэ́чнасьць пагля́даў
– v.i. [kənˈflɪkt] 1. быць у супярэ́чнасьці, пярэ́чыць; разыхо́дзіцца (*у ду́мках*). 2. змага́цца

**conflicting** [kənˈflɪktɪŋ] adj. нязго́дны, супярэ́члівы: ***conflicting evidence*** супярэ́члівыя сьве́дчаньні

**confluence** [ˈkɑ:nfluəns] n. 1. зьліцьцё *n.* (*рэ́чак*). 2. суто́к -у *m.* (*ме́сца зьліцьця́*). 3. зьбег -у *m.* (*акалі́чнасьцяў*). 4. збор -у, сьціск -у, наплы́|ў -ву *m.* (*людзе́й*), нато́ўп -у *m.*

**confluent** [ˈkɑ:nfluənt] – adj. які́я зьліва́юцца ў адно́
– n. прыто́к -у *m.*

**conform** [kənˈfɔ:rm] – v.i. 1. прыстасо́ўвацца. 2. адпавяда́ць зако́ну. 3. прыпадабня́цца фо́рмай, хара́ктарам
– v.t. 1. прыпадабня́ць фо́рмай, хара́ктарам. 2. прыстасо́ўваць

**conformability** [kənˌfɔ:rməˈbɪləti] n. 1. падабе́нства *n.* 2. прыстасава́ньне *n.* (*да но́рмаў*). 3. пада́тлівасьць, пако́рлівасьць *f.*

**conformable** [kənˈfɔ:rməbəl] adj. 1. адпаве́дны, падо́бны. 2. дастасава́ны. 3. пада́тлівы

**conformation** [ˌkɑ:nfɔ:rˈmeɪʃən] n. 1. фо́рма, структу́ра *f.* 2. сымэтры́чны ўкла́д ча́стак. 3. а) датарнава́ньне, прыпадабне́ньне *n.* б) прыстасава́ньне да агу́льных но́рмаў

**conformist** [kənˈfɔ:rmɪst] n. 1. канфармі́ст -а, прыстасава́н|ец -ца *m.* 2. Hist. пасьлядо́ўнік Англіка́нскае царквы́

**conformity** [kənˈfɔ:rməti] n., pl. **-ties** 1. падабе́нства *n.*; зго́днасьць; адпаве́днасьць *f.*: ***in conformity with*** зго́дна з *чым.* 2. а) падпара́дкаваньне фо́рмам. б) прыстасава́нства *n.* 3. паслухмя́насьць, пада́тлівасьць, пако́рнасьць *f.*

**confound** [kənˈfaʊnd] v.t. 1. бянтэ́жыць. 2. блы́таць, зблы́тваць. 3. зьдзіўля́ць; зьбіва́ць з тро́пу; разла́джваць, псава́ць
• ***Confound it (him)*** Хай яго́ лі́ха; Лі́ха на яго́

**confounded** [kənˈfaʊndɪd] adj. 1. зьбянтэ́жаны; разгу́блены. 2. агі́дны: ***He is a confounded liar*** Ён агі́дны хлус

**confraternity** [ˌkɑ:nfrəˈtɜ:rnəti] n., pl. **-ties** 1. братэ́рства *n.* 2. бра́цтва *n.*

**confront** [kənˈfrʌnt] v.t. 1. стая́ць твар у твар, стая́ць насупро́ць. 2. супраціў-

ля́цца, супрацьстая́ць. 3. рабі́ць во́чную ста́ўку

**confrontation** [ˌkɑ:nfrʌnˈteɪʃən] n.1. канфранта́цыя *f.*, во́чная ста́ўка. 2. супастаўле́ньне *n.* 3. супрацiўле́ньне *n.*

**confuse** [kənˈfju:z] v. 1. мяша́ць, заблы́тваць, рабі́ць замяша́ньне. 2. не адро́зьніваць (*адзі́н ад аднаго́*), пераблы́тваць. 3. саро́міць, бянтэ́жыць. 4. ашаламля́ць; уво́дзіць у разгу́бленасьць

**confused** [kənˈfju:zd] adj. 1. зьбянтэ́жаны, разгу́блены, засаро́млены: ***to be confused*** засаро́міцца, зьбянтэжыцца, суме́цца. 2. заблы́таны, бязла́дны: ***confused answer*** блы́таны адка́з

**confusedly** [kənˈfju:zɪdli] adv. 1. зьбянтэ́жана, засаро́млена, разгу́блена. 2. бязла́дна, хааты́чна

**confusion** [kənˈfju:ʒən] n. 1. блытані́на *f.*, блы́таньне *n.* 2. замяша́ньне *n.*, непара́д|ак -ку *m.* 3. разгу́бленасьць, ашало́мленасьць *f.* 4. зьбянтэ́жанасьць, засаро́мленасьць *f.*

**confutation** [ˈkɑ:nfjuˈteɪʃən] n. запярэ́чаньне *n.*

**confute** [kənˈfju:t] v.t. запярэ́чваць, абвярга́ць

**congeal** [kənˈdʒi:l] v. 1. замаро́жваць (*ва́дкасьць*). 2. цьвярдзе́ць; застыва́ць (*кваша́ніна*); згушча́ц|ь (-ца); тужэ́ць

**congenial** [kənˈdʒi:niəl] adj. кангенія́льны, адпаве́дны паводле ду́ху

**congenital** [kənˈdʒenɪtəl] adj. прыро́джаны, прыро́дны

**congest** [kənˈdʒest] v. 1. перапаўня́ць (*людзьмі́, аўтамабі́лямі*). 2. закупо́рвацца

**congestion** [kənˈdʒestʃən] n. 1. перапо́ўненасьць, перанасе́ленасьць *f.* 2. перагру́жанасьць *f.*, зато́р -у *m.* (*ву́лічнага ру́ху*). 3. Med. закупо́рка *f.*, засто́|й -ю *m.*: ***venous congestion*** згушчэ́ньне крыві́ ў ве́нах

**conglobate** [ˈkɑ:ngləbeɪt] – adj. кулі́сты, шарападо́бны, сфэры́чны

– v. надава́ць кулі́стую фо́рму; прыма́ць кулі́стую фо́рму

**conglomerate** [kənˈglɑ:mərət] – adj. 1. сабра́ны ў ма́су. 2. зьле́плены, спалу́чаны з чаго́-н. разнаро́днага. 3. Geol. канглямэра́тны

– n. 1. зьле́пішча *n.* 2. канглямэра́т -у *m.* 3. Geol. аса́дкавая го́рная паро́да

– v. [kənˈglɑ:mereɪt] 1. зьбіра́ц|ь (-ца), сканцэнтро́ўвац|ь (-ца). 2. ператвара́ц|ь (-ца) у зьлі́тную ма́су

**conglomeration** [kənˌglɑ:məˈreɪʃən] n. 1. злучэ́ньне *n.*, зьліцьцё ў ма́су. 2. канглямэра́цыя *f.* ; мешані́на *f.*

**conglutinate** [kənˈglu:tɪneɪt] – v. зьле́півац|ь (-ца); зьліпа́цца

– adj. зьле́плены, зьлі́плы, склее́ны

**conglutination** [kənˌglu:tɪˈneɪʃən] n. 1. зьле́пваньне, зьліпа́ньне *n.* 2. зрост -у *m.*

**congratulant** [kənˈgrætʃələnt] – adj. прывіта́льны, віншава́льны

– n. той, хто віта́е; віншава́льнік -а *m.*, віншава́льніца *f.*

**congratulate** [kənˈgrædʒəleɪt] v. 1. віта́ць; віншава́ць: ***I congratulate you on your success*** Віншу́ю вас з по́сьпехам; ***to congratulate someone on his birthday*** віншава́ць *каго́* з днём наро́дзінаў

**congratulation** [kənˌgrætʃəˈleɪʃən] n. віта́ньне, зычэ́ньне *n.*

• ***congratulations*** прывіта́ньні, віншава́ньні

**congregate** [ˈkɑ:ŋgrɪgeɪt] – v.i. зьбіра́цца (*у ку́чу, грамаду́*): ***All the children congregated around the Christmas tree*** Усе́ дзе́ці сабра́ліся каля ялі́нкі

– v.t. зьбіра́ць

– adj. [ˈkɑ:ŋgrɪgət] 1. сабра́ны, сканцэнтрава́ны. 2. збо́рны

**congregation** [ˌkɑ:ŋgrɪˈgeɪʃən] n. 1. зьбіра́ньне *n.*, зыхо́джаньне ў грамаду́. 2. збо́рышча *n.* (*людзе́й*), сход -у *m.*; зьезд -у *m.* 3. Relig. пара́фія *f.*, прыхо́д -у *m.*; парафія́не, прыхаджа́не *pl. only.* 4. рэлігі́йнае тава́рыства, супо́лка, кангрэга́цыя *f.*

**congress** [ˈkɑːŋgres] n. 1. кангрэ́с -у *m.* (*заканада́ўчы во́рган у дзяржа́ве*). 2. зьезд -у *m.*, сустрэ́ча *f.*, кангрэ́с -у *m.*: ***a writers' congress*** зьезд пісьме́ньнікаў

***• Congress*** Кангрэ́с ЗША (*які́ склада́ецца з Сэна́ту й Пала́ты Прадстаўнíкóў*)

**congressional** [kəŋˈgreʃənəl] adj. кангрэ́савы: ***Congressional election*** вы́бары Кангрэ́су

**congressman** [ˈkɑːŋgresmən] n., pl.**-men** кангрэсмэ́н -а *m.* (*ся́бра Кангрэ́су ЗША, асаблі́ва пала́ты прадстаўнікóў*)

**conic** [ˈkɑːnɪk] adj. *гл.* **conical**

**conical** [ˈkɑːnɪkəl] adj. кані́чны; ко́нусападо́бны

**conic section** Math. кані́чнае сячэ́ньне

**conifer** [ˈkɑːnəfər] n. хваёвае дрэ́ва, хваёвы куст

**coniferous** [koʊˈnɪfərəs] adj. 1. які́ ма́е шы́шкі. 2. хваёвы: ***a coniferous forest*** хваёвы лес

**conjectural** [kənˈdʒektʃərəl] adj. прыпушча́льны, абапе́рты на меркава́ньні

**conjecture** [kənˈdʒektʃər] – n. 1. меркава́ньне, дапушча́ньне *n.* 2. здага́дка *f.*, здо́гад -у *m.*, дапушчэ́ньне *n.*

– v. здага́двацца, дапушча́ць

**conjoin** [kənˈdʒɔɪn] v. лучы́ць (-ца); спалучаць (-ца)

**conjoint** [kənˈdʒɔɪnt] adj. злу́чаны, спалу́чаны; супо́льны

**conjugal** [ˈkɑːndʒəgəl] adj. жані́мскі, шлю́бны

**conjugate** [ˈkɑːndʒəgeɪt] – v.t. 1. Gram. спрага́ць. 2. спалуча́ць (*па́рамі*)

– v.i. 1. Gram. спрага́цца. 2. Biol. спалуча́цца (*па́рамі*), прахо́дзіць капуля́цыю

– adj. [ˈkɑːndʒəgət] 1. па́рны, спалу́чаны па́рамі. 2. Gram. аднакарэ́нны. 3. Math. спалу́чаны: ***conjugate angles*** спалу́чаныя куты́

**conjugation** [kɑːndʒəˈgeɪʃən] n. 1. Gram. а) спрага́ньне *n.* б) спражэ́ньне *n.* 2. спалучэ́ньне *n.* 3. Biol. капуля́цыя *f.*

**conjunct** [ˈkɑːndʒʌŋkt] adj. спалу́чаны; супо́льны; зьвяза́ны

**conjunction** [kənˈdʒʌŋkʃən] n. 1. су́вязь *f.*, спалучэ́ньне *n.*, камбіна́цыя *f.*: ***in conjunction*** у спалучэ́ньні, ра́зам, супо́льна. 2. зьбег -у *m.* (*падзе́яў, акалі́чнасьцяў*), супадзе́ньне *n.* 3. Gram. злу́чнік -а *m.*

**conjunctiva** [ˌkɑːndʒʌŋkˈtaɪvə] n., pl. **-vas, -vae,** Anat. каньюнкты́ва (*сьлі́зістая абало́нка во́ка*)

**conjunctive** [kənˈdʒʌŋktɪv] – adj. 1. злуча́льны. 2. злу́чаны, спалу́чаны. 3. Gram. злу́чнікавы

– n. злуча́льнае сло́ва, злу́чнік -а *m.*

**conjure** [ˈkɑːndʒər] – v. 1. заклíна́ць (*чарадзе́йнымі сло́вамі*). 2. вядзьма́рыць, чарава́ць. 3. [kənˈdʒʊr] прасі́ць; упро́шваць; заклíна́ць

– v.i. 1. выклíка́ць ду́хаў. 2. пака́зваць фо́кусы, займа́цца штука́рствам

**conjurer** or **conjuror** [ˈkɑːndʒərər] n. 1. штука́р -а́, фо́кусьнік -а *m.* 2. чараўні́к -а́, чарадзе́й -я *m.*; чараўні́ца, чарадзе́йка *f.*

**conk** [kɑːŋk] – n. 1. Brit., Sl. нос -а *m.* 2. Sl. галава́ *f.* 3. уда́р у галаву́

– v.t. уда́рыць, саўгану́ць (*асабл. у галаву́*)

***• conk out*** пераставáць працава́ць, лама́цца, псава́цца (*асабл. пра мато́р*)

**connate** [ˈkɑːneɪt] adj. 1. прыро́джаны, прыро́дны. 2. аднача́сна наро́джаны, паўста́лы. 3. сваяцкі, падо́бны (*нату́раю*). 4. Biol. зро́слы

**connect** [kəˈnekt] – v.t. 1. прылуча́ць; спалуча́ць; зьвя́зваць. 2. злуча́ць (*тэлефані́чна*). 3. лучы́ць (*у ду́мках*), асацыява́ць. 4. далуча́цца. 5. Electr. далуча́ць, злуча́ць

– v.i. 1. лучы́цца, быць палу́чаным. 2. мець спалучэ́ньне (*пра цягнікі́*)

**connection**, Brit. **connexion** [kəˈnekʃən] n. 1. су́вязь *f.*; прыналéжнасьць *f.*: ***to have connection with*** мець су́вязь з *чым*; ***connection with the church*** прыналéжнасьць да царквы́. 2.

дачынéньне *n.* 3. a) сваяк -á *m.*, сваячка *f.* б) сваяцтва *n.* 4. спалучэ́ньне цягнікóм

• ***connections*** сýвязі з уплывóвымі людзьмí

• ***in connection with*** а) рáзам, у сýвязі з *чым.* б) што датычыць *чагó*

**connective** [kəˈnektɪv] – adj. злучáльны: ***connective tissue*** злучáльная ткáнка; ***connective word*** злучáльнае слóва

– n. Gram. злучáльнае слóва

**connivance** [kəˈnaɪvəns] n. маўклíвая згóда

**connive** [kəˈnaɪv] v.i. 1. патурáць, глядзéць праз пáльцы. 2. тáйна супрацóўнічаць (*напр. з вóрагам*)

**connoisseur** [ˌkɑ:nəˈsɜ:r] n. знаlвéц- ўцá *m.* (*асабл. у мастáцтве*)

**connotation** [ˌkɑ:nəˈteɪʃən] n. падразумéньне *n.*, канатáцыя *f.*

**connote** [kəˈnoʊt] v. падразумявáць

**conquer** [ˈkɑ:ŋkər] – v.t. 1. заваёўваць (*край*). 2. перамагáць, пераадóльваць (*вóрага, сон, страх*). 3. перасíльваць, перадóльваць: ***to conquer a bad habit*** перадóлець благýю звы́чку. 4. перамóжна ўзьбірáцца на гóрныя вяршы́ні, здабывáць гóрныя вяршы́ні

– v.i. быць перамóжцам, рабíць заваявáньні, перамагáць: ***to conquer or die*** перамагчы́ абó памéрці

**conqueress** [ˈkɑ:ŋkərəs] n. перамóжніца *f.*

**conqueringly** [ˈkɑ:ŋkərɪŋli] adv. перамóжна

**conqueror** [ˈkɑ:ŋkərər] n. перамóжlац - ца *m.*

**conquest** [ˈkɑ:nkwest ] n. 1. заваявáньне *n.*, перамóга *f.* 2. здабы́ты край (*людзі*). 3. заваёва *f.* (*таксáма ў кахáньні*). 4. здабы́тlак -ку *m.*, дасягнéньнlі -яў *pl.*: ***conquests of science*** здабы́ткі навýкі. 5. Figur. сэ́рца, здабы́тае прыхíльнасьцю

**consanguine** [kənˈsæŋgwɪn] adj. крóўны, крэ́ўны, рóдны па крыві́

**consanguinity** [ˌkɑ:nsæŋˈgwɪnəti] n. сваяцтва *n.*; рóднасьць, адзінакрóўнасьць *f.*

**conscience** [ˈkɑ:nʃəns] n. 1. сумлéньне *n.*: ***clear conscience*** чы́стае сумлéньне. 2. сьвéдамасьць *f.*

• ***in all conscience*** па прáўдзе, прáўду кáжучы; вядóма, зразумéла; бясспрэ́чна

**conscienceless** [ˈkɑ:nʃənsləs] adj. несумлéнны, беспрынцы́пны, без усялякага сóраму

**conscience-stricken** [ˈkɑ:nʃənsˌstrɪkən] adj. мýчаны дакóрамі сумлéньня

**conscientious** [ˌkɑ:nʃɪˈenʃəs] adj. добрасумлéнны, акурáтны: ***conscientious work*** сумлéнная прáца

**conscientious objector** адмаўлéнlец -ца *m.* (*які́ зь перакананьня не жадáе служы́ць у вóйску*)

**conscious** [ˈkɑ:nʃəs] adj. 1. сьвéдамы, сьвядóмы *чагó*, які́ разумéе, усьведамляе. 2. сьвéдамы, прытóмны: ***to become conscious*** прыйсьці́ да прытóмнасьці, апрытóмнець. 3. адчýты, адчувáны: ***conscious guilt*** адчувáнае пачуцьцё віны́. 4. наўмы́сны, абдýманы, сьвéдамы: ***a conscious lie*** сьвядóмая манá. 5. няёмкі; сарамлíвы: ***She was a little conscious in her manner because of her oldfashioned dress*** Янá чýлася крыхý няёмка дзéля сваé старамóднае сукéнкі

• ***the conscious,*** Psychol. сьвéдамасьць *f.*

**consciously** [ˈkɑ:nʃəsli] adv. 1. сьвéдама, сьвядóма. 2. наўмы́сна, абдýмана

**consciousness** [ˈkɑ:nʃəsnəs] n. 1. сьвéдамасьць, сьвядóмасьць *f.* 2. прытóмнасьць *f.*: ***to lose consciousness*** стрáціць прытóмнасьць

**conscribe** [kənˈskraɪb] v.t. набірáць, прызывáць у вóйска

**conscript** [kənˈskrɪpt] – v.t. 1. набірáць (*у вóйска*). 2. канфіскавáць (*для дзяржáўнага ўжы́тку*)

– adj. прызвáны (*у вóйска*)

– n. [ˈkɑ:nskrɪpt] прызыўнíк -á *m.*, прызыўнlі́ -óга *m.*; навабрáнlец -ца, рэ́крут -а *m.*

**conscript fathers** 1. сэна́тары, а) у старажы́тным Ры́ме. б) у сярэдняве́чнай Вэнэ́цыі. 2. сэна́тары, паслы́

**conscription** [kən'skrɪpʃən] n. 1. прызы́ў, набо́р у во́йска. 2. вайско́вая павіннасьць (*грашы́ма, пра́цай*)

**consecrate** ['kɑ:nsəkreɪt] – v.t. 1. высьвяча́ць (*царкву́, на сьвятара́*). 2. асьвяча́ць, рабі́ць сьвя́тасьцю. 3. прысьвяча́ць сябе́

– adj., Archaic пасьве́чаны, вы́сьвечаны

**consecration** [ˌkɑ:nsə'kreɪʃən] n. 1. асьвячэ́ньне, сьвячэ́ньне *n.* 2. высьве́чваньне *n.* 3. рукапалажэ́ньне *n.* (*у духо́ўны сан*), кансэкра́цыя *f.*

**consecution** [ˌkɑ:nsɪ'kju:ʃən] n. 1. пасьлядо́ўнасьць, чарго́васьць *f.* 2. лягі́чная пасьлядо́ўнасьць. 3. Gram. пасьлядо́ўнасьць (часо́ў)

**consecutive** [kən'sekjətɪv] adj. пасьлядо́ўны, чарго́вы

**consensus** [kən'sensəs] n. агу́льная зго́днасьць (*ду́мкі, погля́даў*), кансэ́нсус -у *m.*

**consent** [kən'sent] – v.i. 1. згаджа́цца

– n. зго́да *f.*, дазво́л -у *m.*: ***common consent*** агу́льная зго́да

**consentaneous** [ˌkɑ:nsən'tæniəs] adj. 1. узго́днены, адпаве́дны. 2. адзінаду́шны

**consequence** ['kɑ:nsəkwəns] n. 1. вы́нік -у *m.*, насту́пства *n.* 2. вы́вад -у *m.*, лягі́чная высно́ва. 3. зна́чаньне, значэ́ньне *n.*; вага́ *f.*: ***of no consequence*** нява́жны; ***of great consequence*** вялі́кае вагі́. 4. уплыво́васьць, ва́жнасьць *f.*: ***person of consequence*** чалаве́к з уплы́вамі, ва́жны чалаве́к

• ***in consequence*** як вы́нік

• ***in consequence of*** у вы́ніку

• ***take the consequences*** узя́ць на сябе́ адка́знасьць за насту́пствы

**consequent** ['kɑ:nsəkwənt] – adj. 1. вы́ніклы (*зь не́чага*). 2. лягі́чна пасьлядо́ўны

– n. 1. вы́нік -у *m.*, пасьлядо́ўнае здарэ́ньне. 2. Gram. другі́ член умо́ўнага ска́зу. 3. Math. другі́ член прапо́рцыі (*дачыне́ньня*)

**consequential** [ˌkɑ:nsɪ'kwenʃəl] adj. 1. які́ лягі́чна, пасьлядо́ўна выніка́е. 2. які́ лі́чыць сябе́ ва́жным. 3. ва́жны

**consequently** ['kɑ:nsɪkwəntli] adv. заты́м; такі́м пара́дкам; таму́, у вы́ніку

**conservation** [ˌkɑ:nsər'veɪʃən] n.1. захава́ньне *n.*: ***conservation of energy*** захава́ньне энэ́ргіі. 2. ахо́ва (*лясо́ў, рэ́чак*). 3. запаве́днік -у *m.*

**conservationist** [ˌkɑ:nsər'veɪʃənɪst] – n. ахо́ўнік *або́* прыхі́льнік ахо́вы пры́роды

– adj. ахо́ўны, які́ даты́чыць ахо́вы прыро́ды

**conservatism** [kən'sɜ:rvəˌtɪzəm] n. кансэрваты́зм -у *m.*

**conservatist** [kən'sɜ:rvətɪst] n. *гл.* **conservative,** n.

**conservative** [kən'sɜ:rvətɪv] – adj. 1. кансэрваты́ўны, супрацíўны зьме́нам. 2. асьцяро́жны, памярко́ўны, умеркава́ны; скро́мны, сьці́плы: ***a conservative estimate*** скро́мная ацэ́нка. 3. які́ захо́ўвае ад псава́ньня, які́ кансэрву́е; засьцерага́льны

– n. 1. кансэрва́тар -а *m.* 2. рэакцыянэ́р -а *m.*, рэакцыянэ́рка *f.*

**conservator** [kən'sɜ:rvətər] n. 1. ахо́ўнік -а *m.*, апяку́н апекуна́ *m.*, кансэрва́тар -а *m.* 2. Brit. ахо́ўнік фо́ндаў музэ́ю

**conservatory** [kən'sɜ:rvətɔ:ri] – n., pl. **-ries** 1. музы́чная кансэрвато́рыя. 2. цяплі́ца, аранжарэ́я *f.* 3. Obsol. склад -у *m.*; схо́лў -ву *m.*

– adj. які́ захо́ўвае *або́* кансэрву́е

**conserve** [kən'sɜ:rv] – v.t. 1. захо́ўваць (*ад псава́ньня, разбурэ́ньня*), захава́ць . 2. ашчаджа́ць, зьберага́ць. 3. кансэрвава́ць: ***to conserve meat*** рабі́ць мясны́я кансэ́рвы

– n. ['kɑ:nsɜ:rv] often ***conserves*** фрукто́выя кансэ́рвы, варэ́ньне

**consider** [kən'sɪdər] v.t. 1. абду́мваць, разгляда́ць, абмярко́ўваць, заду́мвацца над *чым.* 2. прызнава́ць, лі-

чы́ць: ***He considers them (to be) innocent*** Ён лічыць іх невінава́тымі; ***to consider it necessary*** прызнава́ць патрэ́бным. 3. ду́маць, уважа́ць. 4. лічы́цца з *кім*, шанава́ць (*пагля́ды, пачу́цьці*). 5. браць пад ува́гу, улі́чваць: ***all things considered*** узя́ўшы ўсё пад ува́гу. 6. цані́ць; мо́цна пава-жа́ць. 7. разважа́ць, меркава́ць

**considerable** [kənˈsɪdərəbəl] – adj. 1. зна́чны, істо́тны, ва́жны; ва́рты ўва́гі: ***a considerable responsibility*** ва́жная адка́знасьць. 2. ла́дны, до́сыць вялі́кі: ***a considerable sum of money*** ла́дная су́ма гро́шаў
– adv. ла́дна, до́сыць

**considerably** [kənˈsɪdərəbli] adv. ла́дна; шмат

**considerate** [kənˈsɪdərət] adj. 1. ува́жны, ува́жлівы. 2. стара́нны, ува́жны

**consideration** [kənˌsɪdəˈreɪʃən] n. 1. разгля́д -у *m.*, абмеркава́ньне *n.*: ***to give careful consideration to this question*** дакла́дна абмеркава́ць гэ́тае пыта́ньне; ***to submit for consideration*** адда́ць на разгля́д. 2. меркава́ньне *n.*, ду́мка *f.*, пагля́д -у *m.*: ***That is a consideration*** Мо́жна гэ́так меркава́ць; Гэ́та до́бры пагля́д. 3. ува́га, ува́жлівасьць; паша́на, пава́га *f.*: ***an author worthy of consideration*** а́ўтар ва́рты ўва́гі. 4. адпла́та *f.*; узае́мная паслу́га; кампэнса́цыя *f.*, узнагаро́джаньне *n.*; пла́та *f.*
• ***be under consideration*** разгляда́цца, абмярко́ўвацца
• ***in consideration of*** а) дзе́ля таго́. б) у адпла́ту за *што*
• ***take into consideration*** браць пад ува́гу
• ***under consideration*** на разгля́дзе, разгляда́ны

**considered** [kənˈsɪdərd] adj. 1. ува́жліва праду́маны, абду́маны: ***This is my considered opinion*** Гэ́та мой ува́жна праду́маны пагля́д. 2. паважа́ны; шанава́ны

**considering** [kənˈsɪdərɪŋ] – prep. беручы́ пад ува́гу, ма́ючы на ўва́зе
– adv. беручы́ пад ува́гу абста́віны; адно́сна

**consign** [kənˈsaɪn] v.t. 1. аддава́ць пад апе́ку; даруча́ць. 2. прызнача́ць. 3. дастача́ць, перасыла́ць, пасыла́ць (*тава́р*)

**consignment** [kənˈsaɪnmənt] n. 1. прызначэ́ньне, перадава́ньне *n.*, пера-сы́лка *f.*: ***the consignment of surplus food to the stricken areas*** прызначэ́ньне лі́шку харчо́ў у пацярпе́лы раён. 2. прызна́чаная па́ртыя тава́ру, груз -у *m.*
• ***on consignment*** (*тава́р*) у кансыгна́цыі (*пла́тны пасьля́ про́дажу*)

**consist** [kənˈsɪst] v.i. 1. склада́цца, заключа́цца, зьмяшча́цца: ***A week consists of seven days*** Ты́дзень склада́ецца зь сямі́ дзён. 2. згаджа́цца, супада́ць: ***It consists with my thoughts*** Гэ́та супада́е з маі́мі ду́мкамі. 3 Archaic суіснава́ць, сумяшча́ць
• ***consist in*** заключа́цца ў

**consistence** = **consistency** [kənˈsɪstənsi] n.,pl. **-cies** 1. гушчыня́ *f.*; цьвёрдасьць, ту́гасьць *f.* 2. пасьлядо́ўнасьць *f.* 3. адпаве́днасьць, зго́днасьць, нязьме́ннасьць, вы́трыманасьць *f.*: ***consistency in writing style*** вы́трыманасьць у сты́лі піса́ньня. 4. Obsol. густо́е рэ́чыва

**consistent** [kənˈsɪstənt] adj. 1. пасьлядо́ўны. 2. сумяшча́льны, сула́дны. 3. цьвярды́, салі́дны

**consolation** [kɑːnsəˈleɪʃən] – n. 1. суце́шваньне, суцяшэ́ньне *n.*, уце́ха *f.*, рэч, што прыно́сіць суцяшэ́ньне
– adj. суцяша́льны

**consolation prize** суцяша́льная ўзнагаро́да

**console I** [kənˈsoʊl] v.t. 1. суцяша́ць; супако́йваць. 2. развважа́ць (*го́ра, сму́так*)

**console II** [ˈkɑːnsoʊl] n. 1. ша́фа, кансо́ль *f.* 2. Archit. вы́ступ у сьцяне́, падпо́рка *f.* (*пад карні́з, бальќо́н*). 3. прыбо́рная до́шка, кантро́льная панэ́ль

**consolidate** [kən'sɑ:lɪdeɪt] v. 1. кансалідава́ць, злуча́ць (-ца) ў адно́, задзіно́чваць (-ца). 2. цьвярдзе́ць, узмацня́цца. 3. умацо́ўваць (-ца)

**consolidated** [kən'sɑ:lɪdeɪtɪd] adj. задзіно́чаны; спалу́чаны, супо́льны: ***consolidated efforts*** спалу́чаныя намага́ньні

**consoling** [kən'soʊlɪŋ] adj. суцяша́льны, пацяша́льны: ***consoling thought*** пацяша́льная ду́мка

**consommé** [ˌkɑ:nsə'meɪ] n. мо́цны расо́л, булён -у *m.*

**consonance** ['kɑ:nsənəns] n. 1. зго́днасьць *f.*; гармо́нія *f.* (*глядзі*). 2. сугу́чнасьць, сула́днасьць *f.*, гармо́нія гу́каў. 3. Mus. кансана́нс -у *m.* 4. Phys. рэзана́нс -у *m.*

**consonancy** n., *гл.* **consonance**

**consonant** ['kɑ:nsənənt] – n. Phon. а) зы́чны гук. б) лі́тара, яка́я абазнача́е зы́чны гук
– adj. 1. зго́дны з *чым.* 2. сугу́чны (*то́нам ці гу́кам*). 3. Phys. рэзана́нсны

**consort** ['kɑ:nsɔ:rt] – n. 1. муж -а *m.*; жо́нка *f.*: ***queen consort*** жо́нка караля́; ***king consort*** муж карале́вы. 2. вадаплаў, які́ суправаджа́е други́. 3. супо́льнік -а *m.*; кампаньён -а *m.*; тава́рыш -а *m.*
– v.i. [kən'sɔ:rt] 1. вадзі́цца, ве́сьці знаёмства, мець зно́сіны. 2. зга́джа́цца, супада́ць, гармані́зава́ць
– v.t. лучы́цца, вяза́цца; нала́джваць су́вязь

**consort II** ['kɑ:nsɔ:rt] n. 1. пагадне́ньне *n.*, зго́да *f.* 2. сугу́чнасьць, гармо́нія *f.*

**conspicuous** [kən'spɪkjuəs] adj. 1. зна́чны (*до́бра ба́чны*), які́ кі́даецца ў во́чы; выра́зны. 2. асаблі́вы, незвыча́йны, які́ прыця́гвае ўва́гу: ***an actress of conspicuous charm*** акто́рка з надзвыча́йнай прыва́бнасьцю. 3. го́дны ўва́гі; ве́льмі до́бры, выда́тны. 4. паказны́, прэтэнзі́йны

**conspiracy** [kən'spɪrəsi] n.,pl. **-cies** 1. змо́ва *f.*; кансьпіра́цыя *f.* 2. гру́па змо́ўнікаў, кансьпіра́тараў

**conspirator** [kən'spɪrətər] n. змо́ўнік, кансьпіра́тар -а *m.*

**conspiratorial** [kənˌspɪrə'tɔ:riəl] adj. змо́ўніцкі, кансьпірацы́йны

**conspire** [kən'spaɪr] – v.i. 1. быць у змо́ве. 2. ра́зам дзе́яць; садзе́йнічаць, спрыя́ць
– v.t. ла́дзіць змо́ву, кансьпірава́ць

**constable** ['kɑ:nstəbəl] n. паліцыя́нт -а *m.*, камэнда́нт крэ́пасьці *або́* пала́цу

**constancy** ['kɑ:nstənsi] n., pl. **-cies** 1. непахі́снасьць *f.*; насто́йлівасьць *f.* 2. ве́рнасьць, ляя́льнасьць *f.* 3. нязьме́ннасьць *f.*; ста́ласьць *f.*

**constant** ['kɑ:nstənt] – adj. 1. ста́лы, заўсёдны, нязьме́нны. 2. ця́глы, безупы́нны; насты́рны: ***constant rain*** безупы́нны дождж. 3. ве́рны, нязьме́нны, ляя́льны; вы́трыманы, непахі́сны. 4. Math, Phys. ста́лы: ***a constant force*** ста́лая сі́ла
– n. 1. ста́лае, заўсёднае *n.* 2. Math., Phys. пастая́нная вялі́чыня́, канста́нта *f.*

**constantly** ['kɑ:nstəntli] adv. 1. заўсёды; нязьме́нна: ***constantly complaining*** заўсёды незадаво́лены. 2. безупы́нна. 3. ча́ста, няра́з; усё, уве́сь час

**constellation** [ˌkɑ:nstə'leɪʃən] n. 1. Astr. сузо́р'е *n.* 2. плея́да *f.*: ***a constellation of scholars*** плея́да вучо́ных

**constipate** ['kɑ:nstɪpeɪt] v.t. скрапля́ць, выклі́каць запо́р

**constipated** ['kɑ:nstɪpeɪtɪd] adj. хво́ры на запо́р

**constipation** [ˌkɑ:nstɪ'peɪʃən] n. запо́р -у *m.*

**consternate** ['kɑ:nstərneɪt] v.t. зьдзіўля́ць, пало́хаць; непако́іць, трыво́жыць

**consternation** [ˌkɑ:nstər'neɪʃən] n. перапало́х, жах -у *m.*

**constituency** [kən'stɪtʃuənsi] n., pl. **-cies** 1. вы́барнікі, вы́барцы *pl.* 2. вы́барчая акру́га. 3. пакупнікі́, падпі́счыкі *pl.*; кліенту́ра *f.*

**constituent** [kən'stɪtʃuənt] – adj. 1. які́ зьяўля́ецца ча́сткай цэ́лага; скла-

до́вы. 2. вы́барчы; які́ прызнача́е. 3. устано́ўчы; правамо́цны: ***a constituent assembly*** устано́ўчы сход
– n. 1. кампанэ́нт -а *m.* 2. вы́барц|а -ы, вы́барнік -а *m.*, вы́барніца *f.*; даве́рнік -а *m.*

**constitute** [ˈkɑ:nstətu:t] v.t. 1. утвара́ць; склада́ць. 2. пастанаўля́ць, уво́дзіць (*зако́н*). 3. арганізава́ць; засно́ўваць. 4. пра́ўна афармля́ць. 5. прызнача́ць; выбіра́ць

**constitution** [ˌkɑ:nstəˈtu:ʃən] n. 1. канстыту́цыя *f.*, галоўны зако́н. 2. склад це́ла (*ро́зуму*), целаскла́д -у *m.*: ***the constitution of one's mind*** склад ро́зуму. 3. ула́джаньне *n.*, структу́ра *f.*; су́тнасьць, і́снасьць *f.*: ***the constitution of life*** су́тнасьць жыцьця́. 4. прызначэ́ньне *n.*, стварэ́ньне, фармава́ньне, залажэ́ньне *n.* (*не́чага*). 5. зако́н, дэкрэ́т -у *m.*; прыня́ты звы́чай

**constitutional** [ˌkɑ:nstəˈtu:ʃənəl] – adj. 1. канстытуцы́йны. 2. кары́сны для здаро́ўя: ***constitutional exercises*** практыкава́ньні, кары́сныя для здаро́ўя. 3. істо́тны, гало́ўны
– n. практыкава́ньні, прахо́дка для здаро́ўя, мацыён -у *m.*

**constrain** [kənˈstreɪn] v.t. 1. змуша́ць, вымуша́ць, прымуша́ць. 2. абмяжо́ўваць свабо́ду, зьняво́льваць, садзі́ць у турму́. 3. стры́мвац|ь (-ца)

**constrained** [kənˈstreɪnd] adj. 1. зму́шаны, прыму́шаны. 2. вы́мушаны; стрыма́ны; напру́жаны: ***a constrained smile*** шту́чная, вы́мушаная ўсьме́шка. 3. абмежава́ны

**constraint** [kənˈstreɪnt] n. 1. абмежава́ньне свабо́ды. 2. зьняво́леньне астро́гам. 3. вы́мушанасьць, напру́жанасьць, нясьме́ласьць *f.*: ***We felt a little constraint with the new teacher*** Мы чу́ліся крыху́ нясьме́лымі пры но́вым наста́ўніку. 4. прыму́с -у *m.*, прыну́ка *f.*

**constrict** [kənˈstrɪkt] v.t. сьціска́ць, сьця́гваць; змыка́ць, звужа́ць (*напр. крывяно́сныя сасу́ды*)

**constriction** [kənˈstrɪkʃən] n. сьця́гваньне, звужа́ньне, сьціска́ньне *n.*: ***a constriction in one's chest*** сьціска́е ў грудзёх

**constrictor** [kənˈstrɪktər] n. 1. душы́цел|ь -я *m.* (*напр. зьмяя́*); сьціска́ч -а́ *m.* 2. му́скул, які́ сьціска́е: ***constrictors of the eyelids*** му́скул, які́ заплю́шчвае во́чы

**construct** [kənˈstrʌkt] – v.t. 1. канструява́ць, будава́ць. 2. склада́ць, ствара́ць (*фа́булу для фі́льму, рама́ну*)
– n. [ˈkɑ:nstrʌkt] абстра́кт -у *m.*, адця́гненае паня́цьце

**construction** [kənˈstrʌkʃən] n.1. будава́ньне *n.*, будо́ўля *f.*; будаўні́цтва *n.* 2. буды́н|ак -ка *m.*, будо́ўля *f.*, збудава́ньне *n.*

**constructive** [kənˈstrʌktɪv] adj. 1. тво́рчы, ствара́льны. 2. канструкты́ўны (*крытыцы́зм, прапано́ва*). 3. будаўні́чы

**construe**, esp. Brit. [kənˈstru:] – v.t. 1. тлума́чыць сэнс, інтэрпрэтава́ць; растлума́чваць: ***His statement can be construed in many ways*** Яго́ную зая́ву мо́жна інтэрпрэтава́ць па-ро́знаму. 2. перадава́ць, перакла́даць
– n. 1. будо́ва *f.* (*ска́заў*). 2. інтэрпрэ-та́цыя *f.*, перакладáньне *n.*, перакла́д -у *m.*

**consul** [ˈkɑ:nsəl] n. ко́нсул -а *m.*: ***consul general*** генэра́льны ко́нсул

**consular** [ˈkɑ:nsələr] adj. ко́нсульскі

**consulate** [ˈkɑ:nsələt] n. 1. консуля́т -у *m.* 2. ко́нсульства *n.*

**consulship** [ˈkɑ:nsəlʃɪp] n. 1. ко́нсульства *n.* 2. кадэ́нцыя ко́нсула

**consult** [kənˈsʌlt] – v.t. 1. ра́іцца, шука́ць інфарма́цыі: ***to consult a dictionary*** зазірну́ць у слоўнік; ***to consult a doctor*** пара́іцца з до́ктарам. 2. лічы́цца з *чым*
– v.i. ра́іцца з *кім*, кансультава́цца, абгаво́рваць спра́ву: ***He is consulting with his lawyer*** Ён ра́іцца са сваі́м адвака́там

**consultant** [kənˈsʌltənt] n. 1. асо́ба, яка́я ра́іцца. 2. дара́днік -а, кансульта́нт -а *m.*

**consultation** [ˌkɑ:nsəlˈteɪʃən] n. кансульта́цыя *f.*; нара́да *f.*, абмеркава́ньне *n.*; кансы́ліюм -у *m.*
**consultative** [kənˈsʌltətɪv] adj. кансультацы́йны, дара́дчы
**consulting** [kənˈsʌltɪŋ] adj.1. які́ ра́іць, кансульту́е: ***a consulting physician*** ле́кар-кансульта́нт. 2. для кансульта́цыі: ***consulting hours*** гадзі́ны прыйма́; ***consulting room*** кабінэ́т для кансульта́цыі
**consume** [kənˈsu:m] v.t. 1. спажыва́ць; е́сьці; зьяда́ць. 2. расхо́даваць, выдатко́ўваць; тра́ціць, марнава́ць: ***He consumed his time talking, not studying*** Ён змарнава́ў час на размо́вы заме́ст вучы́цца. 3. зьнішча́ць, палі́ць: ***consumed by fire*** зьні́шчаны агнём
• ***consumed with*** ахо́плены, напо́ўнены не́чым: ***consumed with love*** ахо́плены па́лкім каха́ньнем; ***consumed with anger*** напо́ўнены зло́сьцю
**consumer** [kənˈsu:mər] – n. спажы|ве́ц -ўца́ *m.*
– adj. спажыве́цкі: ***consumer (or consumer's) goods*** спажыве́цкія тава́ры
**consummate** [ˈkɑ:nsəmeɪt] – v.t. 1. дако́нчыць, ско́нчыць. 2. дакана́ць, зьдзе́йсьніць; ажыцьцяві́ць: ***consummate the marriage*** дакана́ць жані́мства (*палавы́м а́ктам*). 3. Obsol. удаскана́льваць
– v.i. зьдзяйсьня́цца, удаскана́львацца
– adj. [ˈkɑ:nsəmət] зако́нчаны, дасканалы: ***consummate skill*** дасканалае майстэ́рства; ***a consummate artist*** дасканалы маста́к
**consummation** [ˌkɑ:nsəˈmeɪʃən] n. 1. заканчэ́ньне *n.*, кан|е́ц -ца́ *m.* 2. зьдзяйсьне́ньне *n.*; дасягне́ньне *n.* (*мэ́ты*). 3. дасканаласьць *f.*
**consumption** [kənˈsʌmpʃən] n. 1. спажыва́ньне, спажыцьцё, харчава́ньне *n.*: ***consumption of fuel*** спажыва́ньне па́ліва. 2. сухо́ты *pl. only*
**consumptive** [kənˈsʌmptɪv] adj. 1. зьнішча́льны, разбура́льны. 2. тубэркулёзны, сухо́тны
– n. сухо́тнік -а *m.*; сухо́тн|ы -ага *m.*, сухо́тная *f.*
**contact** [ˈkɑ:ntækt] – n. 1. сутыка́ньне *n.*, канта́кт -у *m.*: ***to be in contact*** сутыка́цца, быць у канта́кце; ***to come into contact*** а) сутыкну́цца. б) увайсьці́ ў канта́кт. 2. а) су́вязь *f.*, знаёмства *n.* б) карысныя знаёмствы. в) сувязн|ы́ -о́га *m.* (*асо́ба*). 3. Electr. а) спалучэ́ньне: ***to make (to break) contact*** улучы́ць (вы́лучыць) ток. б) лу́чнік, уключа́льнік -а *m.* (*элекТры́чны*)
– adj. канта́ктны, датыка́льны, сувязны́
– v.t. спалуча́ць, сутыка́ць
– v.i. 1. сутыка́цца. 2. нала́джваць су́вязь
**contact lens** канта́ктная лі́нза
**contagion** [kənˈteɪdʒən] n. 1. заразьлівасьць *f.* 2. зара́за *f.*, зара́зная *або́* інфэкцы́йная хваро́ба. 3. Figur. благі́ ўплы́ў; узьдзе́яньне; перадава́ньне *n.*: ***Parents fear the contagion of television*** Бацькі́ бая́цца благо́га ўплы́ву тэлеві́зіі
**contagious** [kənˈteɪdʒəs] adj. 1. зара́зны: ***colds are contagious*** засту́да — зара́зная хваро́ба. 2. зара́зны (*хво́ры*). 3. заразьлівы: ***yawning is often contagious*** пазяха́ньне ча́ста быва́е заразьлі́вае
**contagiousness** [kənˈteɪdʒəsnəs] n. зара́знасьць, заразьлі́васьць *f.*
**contain** [kənˈteɪn] – v.t. 1. зьмяшча́ць, а) ***Books contain information*** Кні́гі зьмяшча́юць інфарма́цыю. б) ***This pitcher will contain a quart of milk*** Гэ́ты збано́к зьме́сьціць лі́тар малака́. 2. мець у сабе́: ***One meter contains 100 centimeters*** Адзі́н мэ́тар ма́е 100 цэнтымэ́траў. 3. стры́мваць: ***to contain oneself*** стры́мвацца, вало́даць сабо́ю. 4. Milit. стры́мваць, затры́мваць, акружа́ць (*во́рага*). 5. Math. дзялі́цца: ***10 contains 2 and 5*** Дзе́сяць дзе́ліцца на два й пяць
– v.i. стры́мвацца

**container** [kən'teɪnər] n. 1. скры́ня, скры́нка *f.*; пасу́дзіна *f.* 2. ёмішча *n.*, кантэ́йнэр -а *m.*

**contaminate** [kən'tæmɪneɪt] – v. забру́джваць (*ваду́, паве́тра*); зага́джваць
– adj. забру́джаны, зага́джаны

**contamination** [kənˌtæmɪ'neɪʃən] n. 1. забру́джаньне *n.*; забру́джанасьць *f.* (*паве́тра*); зара́жанасьць *f.* 2. бруд -у *m.*, зара́за *f.*

**contemn** [kən'tem] v.t. 1. пагарджа́ць, ста́віцца з пага́рдай; грэ́баваць. 2. не паважа́ць, не надава́ць вагі; не звараача́ць ува́гі; ста́віцца абыя́кава

**contemplate** ['kɑ:ntəmpleit] v.1. разважа́ць, разду́мваць; аддава́цца ўспамі́нам. 2. узіра́цца, глядзе́ць, сузіра́ць: ***to contemplate waves at seashore*** сузіра́ць хва́лі на ўзьбярэ́жжы мо́ра. 3. мець наме́р, наме́рвацца; мані́цца

**contemplation** [ˌkɑ:ntəm'pleiʃən] n. 1. сузіра́ньне, развaжа́ньне *n.*, развáга *f.* 2. заду́маньне *n.*; ро́здум -у *m.*, паглы́бленьне ў ду́мкі. 3. прадба́чаньне, спадзява́ньне *n.*: ***The squirrels store food in contemplation of a long cold winter*** Вавёркі запаса́юцца е́жай у прадба́чаньні даўго́й хало́днай зімы́

**contemplative** [kən'templətɪv] adj. 1. заду́маны, задуме́нны; сузіра́льны; схі́льны да ро́здуму, ро́здумны. 2. паглы́блены: ***a contemplative life*** жыцьцё паглы́бленае ў ро́здум аб рэлі́гіі, малітo̒ўнае жыцьцё

**contemplativeness** [kən'templətɪvnəs] n. ро́здумнасьць *f.*

**contemporary** [kən'təmpərerі] – n., pl. **-raries** суча́сьнік -а *m.*
– adj. суча́сны

**contempt** [kən'tempt] n. 1. пага́рда *f.*, пагарджа́ньне *n.* 2. га́ньба *f.*: ***to be held in contempt*** быць ганьбава́ным. 3. Law зьнява́га, непадпара́дкаваньне: ***contempt of court*** зьнява́га су́ду, непаша́на да пастано́вы су́ду, непадпара́дкаваньне пастано́ве су́ду

**contemptible** [kən'temptəbəl] adj. ва́рты пага́рды, пагарджа́ны; по́длы, нікчэ́мны, пага́рдлівы: ***Liars and thieves are contemptible*** Маню́кі й зладзе́і — нікчэ́мныя, пага́рдлівыя лю́дзі

**contemptuous** [kən'temptʃuəs] adj. пага́рдлівы: ***a contemptuous look*** пага́рдлівы по́зірк

**contemptuousness** [kən'temptʃuəsnəs] n. пага́рдлівасьць *f.*

**contemptuously** [kən'temptʃuəsli] adv. пага́рдліва, грэ́бліва

**contend** [kən'tend] v. 1. змага́цца, перамага́ць: ***the refugees had to contend with sickness and lack of food*** уцекачы́ му́сілі змага́цца з хваро́бамі і нястáчай харчо́ў. 2. спаду́жнічаць, спабо́рнічаць. 3. спрача́цца. 4. аспрэ́чваць, сьцьвярджа́ць; заяўля́ць

**contender** [kən'tendər] n. 1. удзе́льнік спабо́рніцтва, супе́рнік -а *m.* 2. кандыда́т на стано́вішча ці пасаду, спабо́рнік -а *m.* 3. дыспута́нт -а *m.*

**content I** ['kɑ:ntent] n., often **contents** 1. зьмест -у *m.*; зьме́сьціва *n.*: ***the contents of a room*** зьме́сьціва пако́ю; ***content of a book*** зьмест кні́гі; ***table of contents*** зьмест (*кні́гі, ча́сапісу*). 2. ёмістасьць *f.* (*пасу́дзіны*), умяшча́льнасьць *f.*; аб'ём -у *m.* 3. ко́лькасьць, ная́ўнасьць *f.*: ***Cottage cheese has a high protein content*** Твaро́г ма́е вялі́кую ко́лькасьць бялко́ў. 4. сэнс, зьмест -у *m.*: ***the content of a speech*** зьмест прамо́вы

**content II** [kən'tent] – v.t. 1. задавальня́ць: ***Nothing contents him*** Нішто́ яго́ не задавальня́е; ***to content oneself*** задаво́ліцца
– adj.1. задаво́лены. 2. зго́дны; гато́вы: ***Will you be content to wait until tomorrow?*** Ці вы зго́дны пачака́ць да за́ўтра?
– n. 1. задавальне́ньне *n.*, задаво́ленасьць *f.* 2. Brit. го́лас «за» ў пала́це ло́рдаў
• ***one's heart's content*** уво́лю; усма́к

**contented** [kən'tentəd] adj. задаво́лены: ***a contented smile*** задаво́леная ўсьме́шка

**contention** [kən'tenʃən] n. 1. спрэ́чка *f.*, ды́спут -у *m.*; сва́рка *f.*, разла́д -у *m.*; спрача́ньне *n.* 2. асьве́дчаньне *n.*, спрэ́чнае пыта́ньне. 3. змага́ньне, спаду́жніцтва *n.*

**contentious** [kən'tenʃəs] adj. 1. сварлі́вы, зва́длівы. 2. по́ўны спрэ́чак, заўзя́тасьці; задзі́рлівы: ***a contentious campaign*** заўзя́тая кампа́нія

**contentment** [kən'tentmənt] n. задаво́ленасьць *f.*, задавальне́ньне *n.*

**conterminous** [kən'tɜ:rmɪnəs] adj., *тс.* **coterminous** 1. які́ ма́е супо́льную мяжу́; суме́жны. 2. супада́льны, сутрыва́льны: ***The terms of office of the president and his chief advisor are conterminous*** Час ула́ды прэзыдэ́нта і яго́ галоўнага дара́дніка супада́юць

**contest** ['kɑ:ntest] – n. 1. спабо́рніцтва, спаду́жніцтва *n.*, ко́нкурс -у *m.*: ***a swimming contest*** плыве́цкае спабо́рніцтва; ***a beauty contest*** ко́нкурс прыгажо́сьці. 2. бой -ю *m.*, змага́ньне *n.* 3. спрэ́чка, дыску́сія *f.*

– v. [kən'test] 1. спабо́рнічаць, змага́цца. 2. зьбіва́ць (*аргумэ́нты, до́вады*); выступа́ць супро́ць, аспрэ́чваць. 3. ста́віць пад сумне́ў

**contestable** [kən'testəbəl] adj. спрэ́чны; сумне́ўны

**contestant** [kən'testənt] n. спабо́рнік -а *m.*; канкурэ́нт -а *m.*

**context** ['kɑ:ntekst] n. кантэ́кст -у *m.*

**contiguity** [ˌkɑ:ntə'gju:əti] n., pl. **-ties** 1. суме́жнасьць, блі́зкасьць *f.* 2. канта́кт -у *m.* 3. суцэ́льная ма́са: ***a contiguity of water*** суцэ́льная вадзяна́я прасто́ра

**contiguous** [kən'tɪgjuəs] adj. 1. суме́жны, прыле́глы: ***to be contiguous*** межава́цца. 2. Geom. прыле́глы: ***contiguous angles*** прыле́глыя куты́. 3. блі́зкі, сусе́дні

**continence** ['kɑ:ntənens] n. 1. стры́манасьць *f.*, устрыма́ньне *n.*; умеркава́насьць, памярко́ўнасьць *f.* 2. нeві́ннасьць, цнатлі́васьць *f.*

**continent I** ['kɑ:ntənent] n. 1. кантынэ́нт -у *m.* 2. вялі́кі во́страў сяро́д гру́пы ме́ншых

• ***the Continent*** Эўро́па (*без Брыта́нскіх астраво́ў*)

**continent II** ['kɑ:ntənent] adj. 1. стры́маны. 2. няві́нны, цнатлі́вы

**continental** [ˌkɑ:ntən'entəl] – adj. кантынэнта́льны

– n. жыха́р кантынэ́нту

**Continental** [ˌkɑ:ntən'entəl] adj. 1. эўрапе́йскі. 2. калянія́льны: ***the Continental Army*** каляніяльнае во́йска

**contingency** [kən'tɪndʒənsi] n., pl. **-cies** непрадба́чаная акалі́чнасьць: ***for every contingency*** на ўсяля́кі вы́падак

**contingent** [kən'tɪndʒənt] – adj. непрадба́чаны: ***contingent expenses*** непрадба́чаныя, магчы́мыя выда́ткі; ***contingent meeting*** непрадба́чанае пасе́джаньне

– n. 1. кантынге́нт -у *m.* (*во́йска, рабо́чае сі́лы*). 2. пададдзе́л -у *m.* 3. ча́стка спа́дчыны. 4. нечака́насьць *f.*

**continual** [kən'tɪnjuəl] adj. 1. бесьперапы́нны, ста́лы: ***the continual wash of the tides*** заўсёдныя прылі́вы й адлі́вы. 2. раз-по́раз, паўто́рны

**continually** [kən'tɪnjuəli] adv. 1. заўсёды; ста́ла; уве́сь час; бесьперапы́нна. 2. раз-по́раз; ве́льмі ча́ста

**continuation** [kənˌtɪnju'eɪʃən] n. 1. праця́г -у *m.*, узнаўле́ньне *n.* 2. праця́г -у *m.* (*апавяда́ньня*)

**continuation school** дадатко́вая шко́ла, вячэ́рняя шко́ла

**continuator** [kənˌtɪnju'eɪtər] n. прадаўжа́льнік -а *m.*, прадаўжа́льніца *f.*

**continue** [kən'tɪnju:] – v.i. 1. цягну́цца. 2. праця́гваць; прадаўжа́ць; узнаўля́ць пасьля́ перапы́нку. 3. трыва́ць. 4. застава́цца; прабыва́ць

– v.t. 1. праця́гваць, прадаўжа́ць. 2. падаўжа́ць. 3. падтры́мваць, захо́ўваць (*трады́цыі*). 4. затры́мваць, пакіда́ць (*на стано́вішчы*). 5. адкла-

да́ць, перано́сіць на пазьне́йшы час, адтэрміно́ўваць: ***to be continued*** праця́г бу́дзе

**continuity** [ˌkɑːntənˈuːəti] n., pl. **-ties** 1. праця́гласьць *f.*; суцэ́льнасьць, неразры́ўнасьць *f.* 2. пасьлядо́ўнасьць *f.*

**continuous** [kənˈtɪnjuəs] adj. 1. ця́глы, праця́глы; безупы́нны, бесьперапы́нны, несьціха́ны: ***continuous work*** безупы́нная пра́ца. 2. заўсёдны (*вятры́, зьме́ны*)

**continuously** [kənˈtɪnjuəsli] adv. бесьпераста́нку, ця́гла, безупы́нна, бесьперапы́нна

**contort** [kənˈtɔːrt] v.t. 1. выгіна́ць, скру́чваць; крыўля́ць, перакрыўля́ць; перако́шваць: ***The clown contorted his face*** Клоўн крыўля́ў твар. 2. скажа́ць; перакру́чваць (*тэкст*)

**contortion** [kənˈtɔːrʃən] n. 1. крыўля́ньне, перако́шваньне *n.* 2. перакру́чваньне, скажа́ньне *n.* (*фа́ктаў*)

**contour** [ˈkɑːntʊr] – n. 1. абры́с -у *m.*; ко́нтур -у *m.*

– adj.1. ко́нтурны: ***contour map*** ко́нтурная ка́рта

– v.t. 1. будава́ць зго́дна з ко́нтурам. 2. рабі́ць абры́с

**contra** [ˈkɑːntrə] n. не́шта супрацьле́глае

**contraband** [ˈkɑːntrəbænd] – n. 1. кантраба́нда *f.*, нелега́льны га́ндаль. 2. кантраба́ндны тава́р. 3. ваённая кантраба́нда

– adj. кантраба́ндны, нелега́льны

**contrabandist** [ˌkɑːntrəˈbændɪst] n. кантрабанды́ст -а *m.*, кантрабанды́стка *f.*

**contraception** [ˌkɑːntrəˈsepʃən] n. прадухіле́ньне зача́цьця, кантрацэ́пцыя *f.*

**contraceptive** [ˌkɑːntrəˈseptɪv] – adj. су́працьзача́ткавы, про́цізача́ткавы

– n. су́працьзача́ткавы сро́дак

**contract** [ˈkɑːntrækt] – n. умо́ва *f.*, кантра́кт -у *m.*

– v.t. [kənˈtrækt] 1. сьця́гваць, звужа́ць; сьціска́ць; абмяжо́ўваць, зьмяншаць: ***to contract efforts*** зьмянша́ць намага́ньні. 2. заключа́ць умо́ву, кантра́кт. 3. схапі́ць (*хваро́бу*). 4. Gram. скарача́ць, сьця́гваць сло́вы: ***do not = don't***

– v.i. 1. сьця́гвацца, звужа́цца, зьмянша́цца; сьціска́цца. 2. падпі́сваць кантра́кт, абавяза́цца

**contraction** [kənˈtrækʃən] n. 1. сьціска́ньне *n.*; скарачэ́ньне, звужа́ньне, звужэ́ньне *n.*: ***Cold causes the contraction of liquids*** Хо́лад выклікáе сьціска́ньне ва́дкасьцяў. 2. Gram. скарачэ́ньне, сьця́гваньне *n.*: ***"Can't" is a contraction of "cannot" "Can't"*** ёсьць сьця́гненай фо́рмай сло́ва ***"cannot"*** 3. Anat. су́тарга *f.* (*му́скула*), сьціск -у *m.* (*тка́нкі, су́дзіны*)

**contractor** [kənˈtræktər] n. 1. падра́дчык -а *m.*, прадпрые́м|ец -ца *m.*: ***building contractor*** будаўні́к-падра́дчык, будаўні́чы прадпрые́мец. 2. Anat. сьцяжны́ му́скул

**contradict** [ˌkɑːntrəˈdɪkt] v.t. 1. пярэ́чыць, запярэ́чваць. 2. супярэ́чыць

**contradicting** [ˌkɑːntrəˈdɪktɪŋ] adj. супярэ́чны, супярэ́члівы

**contradiction** [ˌkɑːntrəˈdɪkʃən] n. 1. пярэ́чаньне, аспрэ́чваньне *n.* 2. супярэ́чнасьць *f.*, супярэ́чаньне *n.*; адмаўле́ньне *n.* 3. супрацьле́гласьць *f.* 4. непасьлядо́ўнасьць, нязго́днасьць *f.*

**contradictious** [kɑːntrəˈdɪkʃəs] adj. які́ пярэ́чыць; перако́рлівы, сварлі́вы

**contradictive** adj. *гл.* **contradictory**

**contradictory** [ˌkɑːntrəˈdɪktəri] adj. 1. супярэ́чны, супярэ́члівы, нязго́дны: ***the contradictory report*** супярэ́члівыя паведамле́ньні. 2. які́ пярэ́чыць, перако́рлівы

**contraposition** [ˌkɑːntrəpəˈzɪʃən] n. супрацьста́ўленьне *n.*

**contrariety** [ˌkɑːntrəˈraɪəti] n., pl. **-ties** 1. супярэ́чнасьць *f.*; разыхо́джаньне *n.*; рознагало́сьсе *n.*: ***the contrariety of the points of view*** разыхо́джаньне ў погля́дах. 2. супрацьле́глы факт *або́* цьве́рджаньне

**contrary** [ˈkɑːntrəri] – adj. 1. супрацьле́глы; зусі́м ро́зны. 2. неспрыя́льны: ***a contrary wind*** ве́цер у во́чы. 3.

[kənˈtreri] які́ супраці́віцца, упа́рты; незгаво́рлівы, капры́зны
– n. супрацьле́гласьць: ***on the contrary*** наадваро́т; ***to the contrary*** іна́кш, у адваро́тным сэ́нсе
– adv., prep. насу́перак; наперако́р

**contrast** [ˈkɑ:ntræst] – n. 1. супрацьле́гласьць *f.*, кантра́ст -у *m.*: ***in contrast with something*** a) у супрацьле́гласьць да не́чага. б) параўна́льна зь не́чым
– v. [kənˈtræst] 1. параўно́ўваць. 2. кантраставáць, быць кантра́стным, супрацьле́глым

**contravene** [ˌkɑ:ntrəˈvi:n] v.t. 1. супярэ́чыць, ісьці́ ў разрэ́з. 2. адмаўля́ць, не згаджа́цца. 3. парушáць (*зако́н, умо́ву*); дзе́яць насу́перак

**contravention** [ˌkɑ:ntrəˈvenʃən] n. 1. супярэ́чаньне. 2. парушэ́ньне (*зако́ну*)

**contribute** [kənˈtrɪbjət] v. 1. дапамагáць; спрыя́ць; прычыня́цца; даваць грашо́вую ахвя́ру; плаці́ць. 2. дапі́сваць, рабі́ць до́піс (*у ча́сапіс, газэ́ту*)
• ***contribute to*** спрыя́ць не́чаму, дапамагáць асягну́ць не́шта

**contribution** [ˌkɑ:ntrɪˈbju:ʃən] n. 1. садзе́йнічаньне, спрыя́ньне *n.*, дапамо́га *f.* 2. укла́д -у *m.*; ахвя́ра *f.*, падару́н|ак -ку *m.* 3. арты́кул, до́піс -у *m.* (*у газэ́ту*). 4. пада́т|ак -ку *m.*

**contributor** [kənˈtrɪbjətər] n. 1. саўдзе́льнік-а *m.*, памага́т|ы -ага *m.*, ахвярада́|вец -ўца *m.* 2. дапі́счык -а *m.*, літарату́рны супрацо́ўнік (*газэ́ты, ча́сапісу*)

**contributory** [kənˈtrɪbjətɔ:ri] adj. які́ спрычыня́ецца; спрыя́льны

**contributory negligence**, Law неасьцяро́жнасьць з бо́ку ахвя́ры вы́падку

**contrite** [kənˈtraɪt] – v.i. ка́яцца
– adj. пакая́льны

**contrition** [kənˈtrɪʃən] n. пакая́ньне *n.*

**contrivance** [kənˈtraɪvəns] n. 1. вынахо́дка *f.*; мэхані́зм -у *m.*, апара́т -у *m.* 2. вынахо́дніцтва *n.* 3. вынахо́длівасьць *f.*, вынахо́дніцкія здо́льнасьці. 4. плян -у *m.*

**contrive** [kənˈtraɪv] v. 1. вынахо́дзіць; рабі́ць прае́кт, мадэ́ль. 2. заду́мваць; плянавáць, праектавáць. 3. схітрáцца, умудрáцца

**contriver** [kənˈtraɪvər] n. 1. той, хто пляну́е. 2. вынахо́дц|а -ы, вынахо́днік -а *m.*, вынахо́дніца *f.*

**control** [kənˈtroʊl] – v.t. 1. мець ула́ду; кіравáць. 2. вало́даць, стры́мваць: ***to control one's emotions*** вало́даць сабо́й, стры́мваць свае́ пачу́цьці. 3. рэгулявáць, кантралявáць. 4. спраўджáць; правярáць
– n. 1. кантро́л|ь -ю, нагля́д -у *m.*; кірава́ньне *n.*: ***to bring under control*** падпара́дкаваць. 2. самавало́даньне, апанава́ньне *n.* 3. Tech. кірава́ньне, рэгулява́ньне *n.*
– adj. кантро́льны: ***control panel*** пульт кірава́ньня
• ***controls*** рычагі́ кірава́ньня

**controllable** [kənˈtroʊləbəl] adj. кірава́льны, кантралява́льны

**controller** [kənˈtroʊlər] n. 1. кантралёр -а *m.*; рэвізо́р -а *m.*; інспэ́ктар -а *m.* 2. Tech. рэгуля́тар -а *m.*

**controlless** [kənˈtroʊləs] adj. бескантро́льны

**controlling** [kənˈtroʊlɪŋ] adj. кіру́ючы; ула́дны

**controversial** [ˌkɑ:ntrəˈvɜ:rʃəl] adj. 1. супярэ́члівы, спрэ́чны, кантравэрсі́йны; дыскусі́йны. 2. які́ лю́біць спрэ́чкі

**controversy** [ˈkɑ:ntrəvɜ:rsi] n., pl. **-sies** 1. спрэ́чнае пыта́ньне; спрэ́чка, дыску́сія, пале́міка. 2. сва́рка *f.*

**controvert** [ˈkɑ:ntrəvɜ:rt] v. 1. спрачáцца; пярэ́чыць; супро́цьста́віцца. 2. дыскутавáць, ве́сьці дыспу́т

**contumatious** [ˌkɑ:ntəˈmeɪʃəs] adj. непако́рны, бунта́рны, які́ не падпара́дкуецца; непаслухмя́ны, упо́рысты, упа́рты

**contumelious** [ˌkɑ:ntəˈmi:liəs] adj. наха́бны; зьнява́жлівы, абра́зьлівы

**contuse** [kənˈtu:z] v.t. уда́рыць, набі́ць сіня́к

**contusion** [kənˈtu:ʒən] n. 1. уда́р -у *m.*; сіня́к -а́ *m.* 2. Figur. зьнява́га *f.*

**conundrum** [kəˈnʌndrəm] n. галаваломка *f.*

**convalesce** [ˌkɑ:nvəˈles] v. ачуньваць (*пасьля хваробы*), папраўляцца

**convalescence** [kɑ:nvəˈlesəns] n. выздараўленьне *n.*, папраўка *f.*

**convection** [kənˈvekʃən] n. 1. перадаваньне *n.* 2. Phys. канвэкцыя *f.*

**convene** [kənˈvi:n] – v.i. зьбірацца, зьяжджацца

– v.t. 1. склікаць сход, паседжаньне. 2. выклікаць (*у суд*)

**convenience** [kənˈvi:niəns] n. 1. зручнасьць *f.*; выгода *f.*; нагода *f.*: ***at your earliest convenience*** пры найбліжэйшай нагодзе; ***at your convenience*** калі вам будзе зручна. 2. даступнасьць *f.* 3. Brit. прыбіральня *f.*

**convenient** [kənˈvi:niənt] adj. 1. зручны, выгодны. 2. даступны

• ***convenient to,*** Informal блізкі да *чаго*

**convent** [ˈkɑ:nvent] n. жаночы манастыр

**convention** [kənˈvenʃən] n. 1. сход -у *m.*; зьезд -у *m.* 2. дамова, згода *f.* 3. звычай -ю *m.*

**conventional** [kənˈvenʃənəl] adj. 1. звычайны, агульнапрынятыя. 2. умоўны: ***conventional sign*** умоўны знак. 3. традыцыйны. 4. стандартны

**conventual** [kənˈventʃuəl] adj. манастырскі, манаскі: ***conventual dress*** манаскі ўбор

**converge** [kənˈvɜ:rdʒ] – v.i. 1. сыходзіцца. 2. зьбірацца

– v.t. зьбіраць у адзін пункт

**convergence** [kənˈvɜ:rdʒəns] n., pl. **-cies** 1. зьбег -у *m.*, зьбежнасьць *f.* 2. пункт зьбежнасьці

**convergent** [kənˈvɜ:rdʒənt] adj. зьбежны

**conversable** [kənˈvɜ:rsəbəl] adj. 1. гаваркі; добры суразмоўца. 2. таварыскі; грамадзейскі

**conversant** [kənˈvɜ:rsənt] adj. азнаёмлены; знаёмы; дасьведчаны

**conversational** [ˌkɑ:nvərˈseɪʃənəl] adj. 1. размоўны, гутарковы, ужываны ў штодзённай гутарцы. 2. гаваркі

**conversation** [ˌkɑ:nvərˈseɪʃən] n. 1. сяброўская гутарка, размова *f.* 2. перамовы *pl.*

**converse I** [kənˈvɜ:rs] – v. гутарыць, размаўляць

– n. гутарка, размова *f.*

**converse II** [kənˈvɜ:rs] – adj. 1. супрацьлеглы, процілеглы. 2. адваротны, перавернуты

– n. адваротнае цьверджаньне

**conversely** [kənˈvɜ:rsli] adv. наадварот

**conversion** [kənˈvɜ:rʒən] n. 1. ператвараньне *n.*, пераход, перавод -у *m.* (*з аднаго ў іншае*). 2. пераход (*у іншую веру, партыю*), наверненьне *n.* 3. Math. ператвараньне звычайных дробаў у дзесятковыя

**convert** [kənˈvɜ:rt] – v. 1. ператвараць; перарабляць. 2. наварочваць (*на веру*), навяртаць; прыахвочваць да *чаго*; пераварочваць; абяртаць. 3. пераводзіць

– n. пярэхрыст -а *m.*, пярэхрыстка *f.*; нэафіт -а *m.*, нэафітка *f.*

**converter** [kənˈvɜ:rtər] n. Electr. канвэртар, трансфарматар -а *m.*

**convex** [ˌkɑ:nˈveks] – adj. выпуклы, выгнуты

– n. выпуклая паверхня

**convexion** [kənˈvekʃən] n. выпукласьць *f.*

**convexo-concave** [kənˌveksoʊˈkɑ:nkeɪv] adj. выпукла-ўвагнуты (*пра лінзу*)

**convexo-convex** [kənˌveksoʊkɑ:nˈveks] adj. дваяка-выпуклы

**convey** [kənˌveɪ] v.t. 1. перавозіць; пераносіць; перадаваць (*весткі, прывітаньні*). 2. праводзіць: ***a wire conveys an electric current*** дрот праводзіць электрычны ток. 3. выказваць, гаварыць, паведамляць: ***to convey one's condolences*** выказаць спачуваньні. 4. Law апісваць, перадаваць: ***The farmer conveyed his farm to his son*** Селянін перадаў сваю гаспадарку сыну

**conveyance** [kənˌveɪəns] n. 1. перавоз -у *m.*, транспартацыя *f.*, праводжаньне *n.* 2. сродак перавозу. 3. перадавань

не *n.* 4. Law перада́ча пра́ва на ўла́снасьць

**conveyer** or **conveyor** [kən'veıər] n. транспартэ́р, канвэ́ер -а *m.*

• ***conveyer belt*** канвэ́ерны пас

**convict** [kən'vıkt] – v.t. 1. прызнава́ць віна-ва́тым; засуджа́ць; прысуджа́ць, прыгаво́рваць. 2. перако́нваць (*у памы́лцы, віне́*)

– n. ['kɑ:nvıkt] а) асу́джаны. б) вя́з|ень -ьня *m. & f.*, ка́таржнік -а *m.*

**convicted** [kən'vıktıd] adj. асу́джаны, прызна́ны вінава́тым; прыгаво́раны

**conviction** [kən'vıkʃən] n. 1. асуджэ́ньне *n.*, прысу́д -у *m.*; прызна́ньне вінава́тым: ***The trial resulted in the conviction of the guilty man*** Суд скóнчыўся прысу́дам вінава́тага. 2. пераканáньне *n.*, упэ́ўненасьць *f.*: ***a person of conviction*** чалавéк зь пераканáньнямі

**convictive** [kən'vıktıv] adj. перакана́льны, переканáўчы

**convince** [kən'vıns] v.t. 1. перакóнваць, запэ́ўніваць: ***to convince of one's innocence*** пераканáць аб нéчай невінавáтасьці. 2. Obsol. прызнавáць вінавáтым, засуджáць

**convincement** [kən'vınsmənt] n. 1. перакóнваньне, пераканáньне *n.*; упэ́ўненасьць *f.* 2. (of) усьведамлéньне, уразумéньне (*граху́*)

**convincible** [kən'vınsəbəl] adj. які́ дае сябé пераканáць

**convincing** [kən'vınsıŋ] adj. перакана́льны, пераканáўчы

**convivial** [kən'vıviəl] adj. 1. вясёлы, тавáрыскі, грамадзéйскі, кампанéйскі. 2. сьвятóчны, урачы́сты

**convocation** [ˌkɑ:nvə'keıʃən] n. 1. склікáньне *n.* 2. сход, зьезд -у *m.* 3. унівэрсытэ́цкая выпускнáя ўрачы́стасьць. 4. сынóд, сабóр -у *m.*

**convoke** [kən'vouk] v.t. 1. склікáць. 2. зьбірáць

**convolute** ['kɑ:nvəlu:t] – adj. скру́чаны, зьві́ты сьпірáляй; заблы́таны

– v. скру́чваць (*сьпірáляй*), скру́чвацца сьпірáляй

**convolution** [ˌkɑ:nvə'lu:ʃən] n. 1. скру́чанасьць *f.* 2. віт|óк -кá *m.* (*сьпірáлі*). 3. зьві́ліна *f.* (*мазгавáя*)

**convoy** ['kɑ:nvɔı] – v.t. суправаджáць, ахóўваць, вéсьці пад канвóем

– n. 1. канвó|й -ю *m.*, ахóва *f.* 2. суправаджэ́ньне *n.*, эскóрт -у *m.*

**convulse** [kən'vʌls] v. 1. тóргацца, дрыжэ́ць: ***An earthquake convulsed the island*** Абтóк дрыжэ́ў ад землятру́су. 2. выклікáць канву́льсіі. 3. трэ́сьціся (*ад сьмéху*)

**convulsion** [kən'vʌlʃən] n. 1. су́тарга *f.*, су́таргі *pl.*, канву́льсіі *pl.* 2. рóгат, сьмех да ўпáду. 3. Figur. гвалтóўныя хвалявáньні (*палíты́чныя, грамáдзкія*), эканамі́чныя хвалявáньні

**convulsive** [kən'vʌlsıv] adj. су́таргавы, які́ выклікáе су́таргі; канвульсі́ўны

**cony** ['kouni] n., pl. **-nies** 1. трус -á *m.* 2. скýрка з трусá

**coo** [ku:] – n. буркавáньне *n.*

– v.i. 1. буркавáць. 2. пяшчóтна гавары́ць

**cook** [kuk] – v.t. 1. вары́ць , гатавáць. 2. Informal фальшавáць, падрабля́ць (*дакумэ́нты*)

– v.i. 1. вары́цца. 2. працавáць ку́харам

– n. ку́хар -а *m.*, кухáрка *f.*

• ***cook up*** а) падрыхтавáць; прыду́маць. б) рабíць камбінáцыі *абó* круцéльствы: ***What's cooking?*** Што тут рóбіцца?

**cookbook** ['kukbuk] n. кухáрская кні́га

**cookery** ['kukəri] n. кулінáрыя *f.*

**cooky** or **cookie** ['kuki] n., pl. **cookies** кóржык, пéрнік -а *m.*

**cooky cutter** фóрмачка для кóржыкаў

**cool** [ku:l] – adj. 1. прахалóдны, халаднавáты, негарáчы. 2. стры́маны; спакóйны, абыя́кавы. 3. без энтузія́зму; халóдны: ***cool reception*** халóднае прыня́цьце 4. *Inform.* фáйны

– n. халад|óк -кá *m.*

– v. 1. ахалóджвацца, ахалóджваць; астуджáцца, астуджáць. 2. астывáць (*пасьля́ ўзбу́ранасьці*), супакóйвацца. 3. зьнеахвóчваць, зьнеахвóчвацца

***• cool colors (blue, green or gray)*** халодныя колеры (*сіні, зялёны, шэры*)
**cooler** [ˈku:lər] n. 1. халадзільнік, ахаладжальнік -а *m.* 2. Sl. турма *f.*
**coolie** [ˈku:li] n., pl. **-lies** кулі, *indecl.*
**coolish** [ˈku:lɪʃ] adj. халаднаваты
**coolly** [ˈku:lli] adv. 1. холадна. 2. стрымана, спакойна; абыякава. 2. без запалу; без сардэчнасьці
**coolness** [ˈku:lnəs] n. 1. халад|ок -ка *m.* 2. стрыманасьць, ураўнаважанасьць *f.* 3. абыякавасьць *f.*
**coop I** [ku:p] – n. 1. клетка для курэй, трусоў. 2. Sl. турма *f.*
– v.t. 1. трымаць у клетцы. 2. трымаць у хаце (*дзяцей*)
***• fly the coop*** уцякаць
**coop II** or **co-op** [ˈkoʊɑ:p] n., Informal каапэратыўная крама, каапэратыўны будынак
**cooper** [ˈku:pər] – n. бондар -а *m.*
– v.t. рабіць *або* ладзіць бочкі, цэбры
– v.i. займацца бандаркай, бандарыць
**cooperage** [ˈku:pərɪdʒ] n. 1. бондарства *n.*, бандарка *f.* 2. бандарня *f.*
**cooperate** [koʊˈɑ:pəreɪt] v.i. супрацоўнічаць, садзейнічаць
**cooperation** [koʊˌɑ:pəˈreɪʃən] n. 1. супраца *f.*, супрацоўніцтва *n.*, садзейнічаньне *n.* 2. каапэрацыя *f.*
**cooperative** [koʊˈɑ:pərətɪv] – adj. 1. які супрацоўнічае *або* садзейнічае. 2. ахвочы супрацоўнічаць, паслухмяны. 3. каапэратыўны, супольны
– n. 1. каапэраты|ў -ву *m.* 2. а) жыльлёвы каапэратыў. б) памешканьне ў такім каапэратыве
**cooperator** [koʊˈɑ:pəreɪtər] n. 1. супрацоўнік -а *m.*, супрацоўніца *f.* 2. каапэратар -а *m.*
**coopt** [koʊˈɑ:pt] v.t. кааптаваць
**coordinate** [koʊˈɔ:rdənət] – adj. 1. каардынаваны, дапасаваны. 2. аднолькава важны. 3. Math. каардынатны (*кут*). 4. Gram. злучаны (*сказ*); злучальны (*злучнік*)
– n.,Math. каардынаты, восі каардынатаў
– v. [koʊˈɔ:rdəneɪt] 1. каардынаваць|ь (ца), дапасоўваць, узгадняць|ь (-ца), пагаджаць. 3. утвараць сыстэму
**coordinate clause** складаназлучаны сказ
**coordinate conjunction** злучальны злучнік
**coordinateness** [koʊˈɔ:rdənətnəs] n. скаардынаванасьць, дапасаванасьць *f.*; роўнасьць *f.*
**coordination** [koʊˌɔ:rdənˈeɪʃən] n. 1. дапасаваньне *n.*, узгодненасьць *f.*; каардынацыя *f.*, гарманійнае супрацоўніцтва. 2. прыводжаньне ў такі самы парадак *або* ранг
**coordinative** [koʊˈɔ:rdənətɪv] or **coordinating** [koʊˈɔ:rdəneɪtɪŋ] adj. каардынацыйны
**cop I** [kɑ:p] n., Informal паліцыянт -а, мент мянта *m.*
**cop II** [kɑ:p] v.t., Sl. 1. красьці. 2. лавіць, хапаць; хапануць, цапнуць (*арыштаваць*)
**copartner** [ˌkoʊˈpɑ:rtnər] n.1. кампаньён -а *m.*; пайшчык -а *m.*; супольнік -а *m.*, супольніца *f.* 2. саўдзельнік -а *m.*, саўдзельніца *f.*
**copartnership** [ˌkoʊˈpɑ:rtnərʃɪp] n. 1. саўдзел -у *m.*, саўдзельніцтва *n.* 2. суполка *f.*
**cope I** [ˈkoʊp] v.i. 1. спраўляцца, упраўляцца. 2. ладзіць
**cope II** [ˈkoʊp] – n. 1. рыза *f.* 2. покрыва *n.*; купал -у *m.*: ***the cope of heaven*** купал неба; ***the cope of night*** покрыва ночы
– v.t. пакрываць
**copeck** [ˈkoʊpek] n. капейка *f.*
**copilot** [ˈkoʊˌpaɪlət] n. намесьнік пілёта
**copious** [ˈkoʊpiəs] n. 1. багаты, шчодры: ***a copious crop*** шчодры ўраджай; ***copious tears*** шмат сьлёзаў. 2 а) шырокі, зьмястоўны; поўны інфармацыі. б) шматслоўны, расьцягнуты: ***copious vocabulary*** багаты слоўны запас
**copiousness** [ˈkoʊpiəsnəs] n. 1. мноства *n.*, багацьце *n.*, дастат|ак -ку *m.* 2. вычарпанасьць *f.*

**copper** [ˈkɑ:pər] – n. 1. медзь *f.* 2. ме́дная *або́* бро́нзавая манэ́та. 3. ме́дны кацёл. 4. чырво́на-руды́ ко́лер
– v.t. пакрыва́ць ме́дзьдзю
– adj.1. ме́дны, мядзя́ны. 2. чырво́на-руда́га ко́леру

**copperhead** [ˈkɑ:pərhed] n. мядзя́нка *f.* (*зьмяя́*)

**coppice** [ˈkɑ:pəs] n. *гл.* **copse**

**copse** [ˈkɑ:ps] n. перале́с|ак -ку *m.*

**copula** [ˈkɑ:pjələ] n., pl. **-las, -lae** 1. Gram., Anat. зьвя́зка *f.* 2. су́вязь *f.* 3. дачыне́ньне *n.*

**copulate** [ˈkɑ:pjəleɪt] v.i., Biol. спаро́ўвацца

**copy** [ˈkɑ:pi] – n., pl. **copies** 1. ко́пія *f.*, рэпраду́кцыя *f.* 2. узо́р -у *m.* (*для капіява́ньня*). 3. асо́бнік -а *m.*, экзэмпля́р -а *m.* 4. ру́капіс -у *m.*, матэры́ял для дру́ку
– v. 1. перапі́сваць; рабі́ць ко́пію *або́* рэпраду́кцыю (*калькава́ць*). 2. насьле́даваць, імітава́ць; пераймáць; браць пры́клад

**copybook** [ˈkɑ:pibʊk] – n. 1. сшыт|о́к -ка́, сшы́т|ак -ка *m.* 2. па́пка для ко́піяў (*дакумэ́нтаў, лісто́ў, раху́нкаў*)
– adj. звыча́йны, штодзённы; шаблённы: ***He was no copybook hero*** Ён ня быў звыча́йным гэро́ем

**copy desk** рэда́ктарскі стол

**copyreader** [ˈkɑ:piˌri:dər] n. карэ́ктар -а *m.*

**copyright** [ˈkɑ:piraɪt] – n. а́ўтарскае пра́ва
– v.t. забясьпе́чваць а́ўтарскае пра́ва
– adj. ахо́ўваны а́ўтарскім пра́вам

**coquet** [koʊˈket] v.i. 1. каке́тнічаць; фліртава́ць. 2. Figur. забаўля́цца, гуля́ць

**coquetry** [ˈkoʊkɪtri] n., pl. **-ries** 1. каке́цтва *n.* 2. Figur. гульня́ *f.*, забаўле́ньне *n.*: ***a political coquetry*** паліты́чная гульня́

**coquette** [koʊˈket] n. каке́тка *f.*

**coquettishly** [koʊˈketɪʃli] adv. каке́тліва

**coral** [ˈkɔ:rəl] – n. 1. кара́л -у *m.* 2. кара́лава-чырво́ны ко́лер
– adj. кара́лавы: ***a coral necklace*** кара́лі. 2. кара́лавага ко́леру, чырво́ны

**coral reef** кара́лавы рыф

**corbel** [ˈkɔ:rbəl] n. 1. Arch. вы́ступ -у *m.*, ні́ша *f.* 2. Tech. падпо́рка, апо́ра *f.*; кранштэ́йн -а *m.*

**cord** [kɔ:rd] n. 1. шнур -а́ *m.*, шнур|о́к -ка́ *f.*, шпага́т -у *m.*; то́нкая вяро́ўка. 2. зьвя́зка *f.*: ***vocal cord*** галасава́я зьвя́зка. 3. са́ж|ань -ня *m.* (*ме́ра дро́ваў*)
– v.t. 1. зьвяза́ць вяро́ўкай. 2. склада́ць дро́вы ў са́жні

**corded** [ˈkɔ:rdɪd] adj. 1. рубча́сты (*напр. матэрыя́л*). 2. зьвяза́ны шнурко́м. 3. скру́чаны са шнурко́ў. 4. скла́дзены ў са́жні (*дро́вы*)

**cordial** [ˈkɔ:rdʒəl] – adj. 1. сардэ́чны, шчы́ры, прыя́зны, цёплы. 2. узмацня́льны, які́ стымулю́е
– n. 1. то́е, што ўзмацня́е або́ стымулю́е. 2. лікёр -у *m.*

**cordiality** [ˌkɔ:rdʒiˈæləti] n. сардэ́чнасьць *f.*

**cordially** [ˈkɔ:rdʒəli] adv. сардэ́чна, шчы́ра, цёпла

**cordon** [ˈkɔ:rdən] – n. 1. кардо́н -у *m.* (*вайско́вы, паліцэ́йскі*). 2. о́рдэнская сту́жка
– v.t. загараджа́ць, акружа́ць або́ адраза́ць кардо́нам

**corduroy** [ˈkɔ:rdərɔɪ] – n. 1. рубча́сты пліс, вэльвэ́т -у *m.* 2. грэ́бля, насьці́л *або́* мост зь бярвеньня
– v.t. масьці́ць даро́гу, грэ́блю ці мост (*бярве́ньнем*)
• ***corduroy road*** даро́га, вы́машчаная бярве́ньнем

**corduroys** плі́савыя *або́* вэльвэ́тавыя нагаві́цы

**core** [kɔ:r] – n. 1. агры́з|ак, асяро́д|ак -ка *m.* (*сярэ́дняя ча́стка*). 2. цэ́нт|ар -ру *m.*, сэ́рца *n.*, стры́ж|ань -ня *m.* 3. су́тнасьць *f.* 4. Electr. жы́ла ка́бэлю. 5. Geol. зямны́я не́тры
– v.t. вырэ́зваць, вы́разаць (*сярэ́дзіну я́блыка*); выма́ць ко́стачкі з фру́ктаў

**corespondent** [ˌkourɪˈspɑ:ndənt] n., Law суадка́зьнік -а *m.*, суадка́зьніца *f.*

**cork** [kɔ:rk] – n. 1. ко́р|ак -ку *m.*, кара́ ко́ркавага ду́бу. 2. за́тычка *f.* 3. ко́ркавы дуб, ко́ркавае дрэ́ва
– v.t. 1. закарко́ўваць (*пля́шку, бу́тлю*). 2. затыка́ць за́тычкай. 3. Figur. апано́ўваць, стры́мваць, зато́йваць (*пачу́цьці*). 4. чарні́ць падгарэ́лым ко́ркам

**corked** [kɔ:rkt] adj. 1. заткну́ты; пазатыка́ны; закаркава́ны; зашпунтава́ны (*пра бо́чку*). 2. (*пра віно́*) якое тхне ко́ркам, сапсава́нае благі́м ко́ркам

**corkscrew** [ˈkɔ:rkskru:] – n. што́пар -а, ко́ркацяг -а *m.*
– adj. сьпіра́льны

**corn I** [kɔ:rn] – n. 1. кукуру́за *f.* (*расьлі́на й зе́рне*). 2. зе́рне (*збажыны́*). 3. Brit. збо́жжа *n.* 4. Scot., Irish авёс, аўса́ *m.* 5. пясчы́нка, салі́нка *f.* (*зе́рнетка со́лі*). 6. Informal кукуру́зная гарэ́лка
– v.t. 1. салі́ць: ***corned beef*** пасо́леная я́лавічына. 2. кармі́ць жывёлу кукуру́зай ці збо́жжам. 3. засе́яць збо́жжам *або́* кукуру́зай

**corn II** [kɔ:rn] n. маз|о́ль -аля́ *m.*

**corncob** [ˈkɔ:rnkɑ:b] n. кукуру́зны ката́х

**corn cockle** Bot. куко́л|ь -ю *m.*

**cornea** [ˈkɔ:rniə] n. рагава́я абало́нка (*во́ка*) або́ рагаві́ца *f.*

**corneous** [ˈkɔ:rniəs] adj. рагавы́ (*грэ́бень*)

**corner** [ˈkɔ:rnər] – n. 1. кут|о́к -ка́ *m.* 2. кут -а́ *m.*, ву́г|ал -ла́ *m.*: ***to stand in the corner*** стая́ць у куце́. 3. рог -у *m.* (*ву́ліцы*): ***on the corner of two streets*** на рагу́ дзьвюх ву́ліцаў. 4. заку́т|ак -ка *m.* 5. безвыхо́днае стано́вішча: ***to drive into a corner*** загна́ць у кут. 6. манапо́лія *f.*
– adj. рагавы́, ку́тні: ***a corner house*** рагавы́ дом; ***a corner table*** ку́тні стол
– v.t. 1. а) ста́віць у кут. б) прыпе́рці да сьцяны́. 2. завярну́ць за рог. 3. скупля́ць тава́ры з мэ́тай спэкуля́цыі
• ***around the corner*** а) за ро́гам. б) блі́зка, ху́тка
• ***cut corners*** а) зраза́ць куты́. б) ашчаджа́ць
• ***paint oneself into a corner*** апыну́цца ў безвыхо́дным стано́вішчы
• ***the four corners of the world*** край сьве́ту

**cornerstone** [ˈkɔ:rnərstoun] n. 1. наро́жны ка́мень. 2. Figur. фунда́мэнт -у, падму́р|ак -ку, грунт -у *m.*, асно́ва *f.*

**cornet I** [kɔ:rˈnet] n.1. Mus. карнэ́т -а *m.* 2. папяро́вы мяшэ́чак-клінок

**cornet II** [ˈkɔ:rnɪt] n. чапе́ц мана́шкі

**cornfield** [ˈkɔ:rnfi:ld] n. кукуру́зная ні́ва

**cornflower** [ˈkɔ:rnˌflaur] n. васіл|ёк -ька́ *m.*, вало́шка *f.*

**cornice** [ˈkɔ:rnəs] n. карні́з -у *m.*

**corn meal** кукуру́зная мука́

**cornucopia** [ˌkɔ:rnəˈkoupiə] n. рог даста́тку

**corolla** [kəˈroulə] n., Bot. вяно́ч|ак -ка *m.*, ве́нчык -а *m.* (*кве́ткі*), пялёсткі *pl.*

**corollary** [ˈkɔ:rəleri] n., pl. **-ries** 1. вы́вад -у *m.*; вы́нік -у *m.* 2. пасьлядо́ўнасьць *f.*

**corporal I** [ˈkɔ:rpərəl] adj. 1. цяле́сны, фізы́чны: ***corporal punishment*** цяле́сная ка́ра; ***corporal soundness*** фізы́чнае здаро́ўе. 2. асабі́сты: ***corporal possession*** рэ́чы асабі́стага ўжы́тку, асабі́стая ўла́снасьць

**corporal II** [ˈkɔ:rpərəl] n. капра́л -а *m.*

**corporal III** [ˈkɔ:rpərəl] n., Relig. анты́мінс -у *m.*

**corporate** [ˈkɔ:rpərət] adj. 1. карпарацы́йны, а) які́ ўтвара́е карпара́цыю, б) які́ нале́жыць да карпара́цыі. 2. супо́льны, збо́рны; калекты́ўны

**corporation** [ˌkɔ:rpəˈreɪʃən] n. 1. карпара́цыя *f.*, тава́рыства (*прамысло́вае або́ гандлёвае*). 2. Sl. бру́ха *n.*

**corporator** [ˈkɔ:rpəreɪtər] n. ся́бра карпара́цыі

**corporeal** [kɔ:rˈpɔ:riəl] adj. 1. для це́ла, цяле́сны. 2. матэрыя́льны

**corps** [kɔ:r] n., pl. **corps** 1. ко́рпус -у *m.* 2. галіна́ слу́жбы: ***Signal Corps*** ад-

дзе́лы су́вязі; ***press corps*** прэ́савая слу́жба; ***diplomatic corps*** дыпляматы́чны ко́рпус. 3. студэ́нцкая карпара́цыя *f.*

**corpse** [kɔ:rps] n. труп -а *m.*

**corpulence** [ˈkɔ:rpjələns] n. сы́тасьць, тлу́стасьць *f.*

**corpulent** [ˈkɔ:rpjələnt] adj. то́ўсты, тлу́сты; мажны́

**corpuscle** [ˈkɔ:rpʌsəl] n. 1. часьці́нка *f.* 2. крывяны́ ша́рык, мале́кула *f.*: ***red (white) corpuscles*** чырво́ныя (бе́лыя) крывяны́я ша́рыкі

**corpuscular** [kɔ:rˈpʌskjələr] adj. 1. ша́рыкавы. 2. часьці́нкавы

**correct** [kəˈrekt] – v.t. 1. пра́віць, папраўля́ць (*памы́лкі*), выпраўля́ць; рабі́ць заўва́гу. 2. стры́мваць, утаймо́ўваць, суніма́ць. 3. кара́ць. 4. рэгулява́ць
– adj. 1. пра́вільны, слу́шны. 2. адпаве́дны: ***correct dress*** адпаве́днае адзе́ньне

**correctable** [kəˈrektəbəl] adj. папра́ўны

**correction** [kəˈrekʃən] n. 1. выпраўля́ньне *n.* 2. выпраўле́ньне *n.*, папра́ўка *f.*, карэ́кта *f.* 3. пакара́ньне *n.*, нага́на *f.* 4. супрацьдзе́яньне, нэўтралізава́ньне *n.*

**corrective** [kəˈrektɪv] – adj. папра́ўчы
– n. карэкты́ў -ву *m.*, (*папра́ўчыя ме́ры*)

**correctly** [kəˈrektli] adv. пра́вільна, без памы́лак

**correlate** [ˈkɔ:rəleɪt] – v.t. устанаўля́ць суадно́сіны
– v.i. суадно́сіцца, быць у суадно́сінах

**correlation** [ˌkɔ:rəˈleɪʃən] n. суадно́сіны *pl.*, дачыне́ньне *n.*; су́вязь *f.*

**correlative** [kəˈrelətɪv] adj. 1. суадно́сны, узае́мна зьвяза́ны. 2. Gram. карэляты́ўны, па́рны (*злу́чнікі, сло́вы*): ***"either... or"*** або́. . . або́

**correspond** [ˌkɔ:rəˈspɑ:nd] v.i. 1. адпавяда́ць; быць адпаве́дным, аналягі́чным; пагаджа́цца з *чым.* 2. ліства́цца, перапі́свацца

**correspondence** [ˌkɔ:rəˈspɑ:ndəns] n. 1. падабе́нства *n.*, адпаве́днасьць *f.* 2. зго́днасьць *f.* 3. ліства́ньне *n.*, піса́ньне лісто́ў. 4. лісты́ *pl.*, карэспандэ́нцыя *f.*, до́пісы ў газэ́ту

**correspondence course** заво́чны курс

**correspondent** [ˌkɔ:rəˈspɑ:ndənt] n. 1. асо́ба, яка́я лісту́ецца. 2. карэспандэ́нт -а *m.* (*газэ́тны*)

**corresponding** [kɔ:rəˈspɑ:ndɪŋ] adj. 1. зго́дны, падо́бны; адпаве́дны. 2. які́ пі́ша лісты́: ***a corresponding secretary*** сакрата́р, які́ вядзе́ ліства́ньне

**correspondingly** [ˌkɔ:rəˈspɑ:ndɪŋli] adv. адпаве́дна

**corridor** [ˈkɔ:rədər] n. калідо́р -у *m.*

**corrigible** [ˈkɔ:rɪdʒɪbəl] adj. папра́ўны; які́ мо́жна папра́віць

**corroborate** [kəˈrɑ:bəreɪt] v. пацьвярджа́ць, падмацо́ўваць, падтры́мваць

**corroboration** [kəˌrɑ:bəˈreɪʃən] n. 1. пацьве́рджаньне -я *n.* 2. дадатко́вы до́вад

**corroborative** [kəˈrɑ:bəreɪtɪv] adj. пацьвярджа́льны

**corrode** [kəˈroʊd] – v.t. разьяда́ць (*іржо́ю*); выпа́льваць (*кісłато́ю*)
– v.i. іржаве́ць

**corrosion** [kəˈroʊʒən] n. 1. каро́зія *f.*; разьяда́ньне *n.* 2. іржаве́ньне *n.*

**corrosive** [ kəˈroʊsɪv] – adj. 1. е́дкі, які́ разьяда́е. 2. які́ падто́чвае (*здаро́ўе*)
– n. е́дкае рэ́чыва

**corrugate** [ˈkɔ:rəgeɪt] – v. змо́ршчвац|ь (-ца), змо́ршчыц|ь (-ца); гафры́раваць, фалдава́ц|ь (-ца)
– adj. [ˈkɔ:rəgət] 1. змо́ршчаны, гафры́раваны, пафалдава́ны; ры́флены: ***corrugated iron*** ры́фленае жале́за; ***corrugated paper*** ры́фленая папе́ра, ры́флены кардо́н

**corrupt** [kəˈrʌpt] – adj. 1. сапсу́ты, скарумпава́ны, прада́жны, несумле́нны (*чалаве́к*). 2. сапсу́ты папра́ўкамі, зьме́намі. 3. гнілы́, сапсу́ты
– v. 1. псава́ць, разбэ́шчваць. 2. падкупля́ць. 3. перакру́чваць. 4. гні́ць, псава́цца

**corruption** [kəˈrʌpʃən] n. 1. кару́пцыя *f.*; несумле́ннасьць *f.* 2. разбэ́шчанасьць, сапсава́насьць *f.* (*мара́льная*). 3. пера-

кру́чваньне, скрыўле́ньне, скажэ́ньне *n.* 4. псава́ньне *n.*, гніцьцё *n.*

**corruptionist** [kəˈrʌpʃənist] n. супо́льнік у кару́пцыі

**corset** [ˈkɔːrsət] n. карсэ́т -у *m.*; шнуро́ўка *f.*, гарсэ́т -у *m.*

**cortex** [ˈkɔːrteks] n., pl. **-tices** 1. Bot. кара́ *f.* 2. паве́рхневы пласт во́рганаў

**cosecant** [ˌkoʊˈsiːkənt] n., Math. касэ́канс -у *m.*

**cosher I** [ˈkɔːʃər] v.t. пе́сьціць, расьпе́шчваць

**cosher II** [ˈkɔːʃər] v.i. жыць на чужы́ кошт, быць нахле́бнікам

**cosignatory** [ˌkoʊˈsɪgnətɔːri] n. той, хто супо́льна падпі́свае

**cosily** [ˈkoʊzɪli] adv. ту́льна, выго́дна

**cosine** [ˈkoʊsaɪn] n., Math. ко́сынус -а *m.*

**cosmetic** [kɑːzˈmetɪk] – n. касмэ́тыка *f.*
– adj. касмэты́чны

**cosmic** [ˈkɑːzmɪk] adj. 1. сусьве́тны, касьмі́чны. 2. велічэ́зны, велізáрны, усеабдымны: ***a cosmic explosion*** велічэ́зны вы́бух

**cosmic dust** касьмі́чны пыл

**cosmic rays** касьмі́чныя прамяні́

**cosmic speed** касьмі́чная ху́ткасьць

**cosmopolitan** [ˌkɑːzməˈpɑːlətən] – adj. 1. касмапаліты́чны. 2. шыро́ка распаўсю́джаны
– n. касмапалі́т -а *m.*, касмапалі́тка *f.*

**cosmopolitanism** [ˌkɑːzməˈpɑːlətənˌɪzəm] n. касмапаліты́чнасьць *f.*

**cosmopolite** [kəzˈmɑːpəlaɪt] n. касмапалі́т -а *m.*

**cosmopolitism** [ˌkɑːzməˈpɑːləˌtɪzəm] n. касмапаліты́зм -у *m.*

**cosmos** [ˈkɑːzməs] n. сусьве́т, ко́смас -у *m.*, прасто́ра *f.*

**Cossack** [ˈkɑːsæk] – n. каза́к -а́ *m.*: ***Cossack's way of life*** каза́ччына *f.*
– adj. каза́цкі

**cost** [kɔːst] – n. 1. кошт -у *m.* 2. цана́ *f.*; выда́т|ак -ку *m.*; стра́ты, ахвя́ры *pl.*: ***the cost in lives*** стра́ты ў людзя́х; ***cost of living*** ко́шты ўтрыма́ньня; ***high cost of living*** дараго́ўля, даражыня́
– v. 1. каштава́ць. 2. вылі́чваць ко́шты (*праду́кцыі, пра́цы*)
• ***at all costs*** or ***at any cost*** што б там ні было́, за ўся́кую цану́
• ***at cost*** па сабе́кошце
• ***at the cost of*** за кошт *чаго́*, цано́й *чаго́*

**costermonger** [ˈkɔːstərˌmʌŋər] n., esp. Brit. ву́лічны гандля́р

**costive** [ˈkɑːstɪv] adj. 1. які́ хварэ́е на запо́р. 2. які́ выклі́кае запо́р. 3. паво́льны, мару́дны. 4. скупы́, скна́рлівы

**costly** [ˈkɔːstli] adj. 1. дарагі́, кашто́ўны. 2. які́ до́рага абыхо́дзіцца

**costume** [ˈkɑːstuːm] n. гарніту́р -у, стро|й -ю *m.*, прынаго́дная во́пратка: ***Belarusian folk costume*** белару́скі наро́дны строй

**costume ball** баль-маскара́д

**cosy** [ˈkoʊzi] adj. *гл.* **cozy**

**cot I** [kɑːt] n. 1. ву́зкі ло́жак, раскла́да́нка *f.* 2. Brit. дзіця́чы ло́жачак. 3. гама́к -а́ *m.*, падве́сны ло́жак

**cot II** [kɑːt] n. 1. ха́тка *f.*, катэ́дж -у *m.* 2. хлеў, хлява́ *m.*

**cotangent** [koʊˈtændʒənt] n., Math. катанге́нс -а *m.*

**cotemporary** [koʊˈtempərəri] adj. *гл.* **contemporary**

**cottage** [ˈkɑːtɪdʒ] n. 1. ха́тка *f.* 2. катэ́дж -у *m.*

**cottage cheese** тва|ро́г -рагу́ *m.*

**cotton** [ˈkɑːtən] – n. 1. баво́ўнік -а *m.*, баво́ўна *f.* 2. парка́л|ь -ю *m.*
– adj. баво́ўнавы (*але́й*), баваўня́ны (*пра́жа, прамысло́васьць*): ***cotton dress*** паркалёвая суке́нка
– v.i. 1. Informal пасябрава́ць, палюбі́ць; пагадзі́цца: ***cotton to an idea*** пагадзі́цца зь ідэ́яй

**cotton gin** баво́ўнаачышча́льная машы́на

**cottonseed oil** баво́ўнавы але́й

**cotton wool** 1. баво́ўна-сырэ́ц. 2. ва́та *f.*

**couch I** [kaʊ tʃ] – n. 1. кана́па *f.* 2. ло́гава *n.*, ло́ж|ак -ка *m.* 3. нара́ *f.*, ло́гава, бярло́га *f.* 4. пласт (*фа́рбы, ля́ку*)

– v. 1. лéгчы, прылéгчы на канáпу. 2. выкладáць, выкáзваць: ***His thoughts were couched in beautiful language*** Ягóныя дýмкі былí выклáдзеныя прыгóжымі слóвамі. 3. прытóйвацца, сядзéць у засáдзе

**couch II** or **couch grass** пы́рнік -у *m.*

**cougar** [ˈku:gər] n. кугуáр -а *m.*, пýма *f.*

**cough** [kɔ:f] – v.i. кáшляць

– n. кáшляньне *n.*, кáшlаль -лю *m.*

• ***cough up*** адкáшляць

**cough drop** таблéтка ад кáшлю

**coughing** [ˈkɔ:fɪŋ] n. кáшляньне *n.*

**coulisse** [ˈku:lɪs] n. 1. паз -у *m.* 2. кулíса *f.*

**coulomb** [ˈku:lɑ:m] n., Electr. кулён -а *m.*

**council** [ˈkaʊnsəl] n. 1. рáда *f.*: ***a city council*** гарадзкáя рáда. 2. нарáда, кансы́ліюм -у *m.*: ***council of physicians*** лéкарскі кансы́ліюм. 3. царкóўны сабóр. 4. гэбрáйскі сынэдрыён

**council board** пасéджаньне рáды

**council(l)or** [ˈkaʊnsələr] n. ся́бра рáды; рáдн|ы -ага *m.*, рáдная *f.*

**counsel** [ˈkaʊnsəl] – n. 1. нарáды *pl.*, супóльнае абмеркавáньне. 2. парáда, прапанóва *f.*: ***to give good counsel*** даць дóбрую парáду. 3. намéр -у *m.*, пля́ны *pl.* 4. адвакáт -а *m.*, грýпа адвакáтаў

– v.t. рáіць, рэкамэндавáць

– v.i. рáіцца, супóльна абмяркóўваць, вéсьці нарáду

• ***keep one's counsel*** маўчáць, не гавары́ць пра своé пля́ны; трымáць у сакрэ́це

• ***take counsel*** рáіцца, супóльна абмяркóўваць

**counselor** [ ˈkaʊnsələr] n. 1. дарáднік -а *m.* 2. адвакáт -а *m.* 3. юрыскóнсульт -а *m.* (*амбасáды*). 4. інстрýктар, правадні́к (*у лéтнім ля́геры*)

**count I** [kaʊnt] – v.t. а) лічы́ць, зьлíчваць; падлíчваць: ***to count one's profits*** падлічáць своé прыбы́ткі. б) налíчваць, далíчваць: ***to count to one hundred*** далічы́ць да ста. 2. улучáць у лік, браць пад увáгу: ***There are ten of us counting the children*** Рáзам зь дзéцьмі нас дзесяцёра. 3. уважáць, лічы́ць за нéшта

– v.i. 1. лічы́ць: ***He can read, write and count*** Ён мóжа чытáць, пісáць і лічы́ць. 2. разьлíчваць. 3 лічы́цца: ***It won't count*** Гэ́та ня бýдзе лічы́цца. 4. мець уплы́ў; мець значэ́ньне: ***Every little bit counts*** Наймéншая драбнíца мáе значэ́ньне. 5. налíчваць: ***The army counts two million*** Вóйска налíчвае два мільёны

– n. 1. лік -у *m.*: ***to lose count*** зьбíцца зь лíку. 2. лічэ́ньне *n.*

• ***count anew*** пералічáць

• ***count for*** мець значэ́ньне, быць вáртым, знáчыць

• ***count for much*** мець вялíкае значэ́ньне

• ***count out*** а) перамагчы́ (*кандыдáта*) фальшы́вым падлíкам галасóў. б) не разьлíчваць на *кагó* в) перамагчы́

**count II** [kaʊnt] n. граф -а *m.*

**countdown** [ˈkaʊntdaʊn] n. адлічэ́ньне, адлíк чáсу (*да пачáтку нéчага*)

**countenance** [ˈkaʊntənəns] – n. 1. вы́раз твáру. 2. твар -у *m.*; ры́сы твáру. 3. ухвалéньне *n.*, марáльная падтры́мка, заахвóчваньне, падбадзёрваньне *n.* 4. супакóйнасьць, стры́манасьць, пэ́ўнасьць *f.*: ***to keep one's countenance*** быць спакóйным, валóдаць сабóю; ***to lose countenance*** усхвалявáцца; ***to put out of countenance*** зьбянтэ́жыць, сумéць, засарóміць

– v.t. усхваля́ць, заахвóчваць; падтры́мваць: ***I will not countenance such a plan*** Я ня бýду падтры́мваць гэ́ткі плян

**counter I** [ˈkaʊntər] n. прылálвак -ўка *m.* 2. буфэ́тная стóйка, буфэ́тны прылáвак

**counter II** [ˈkaʊntər] n. 1. лічы́льнік -а *m.* (*асóба*). 2. лічы́льнік, лíчнік -а *m.* (*апарáт*)

**counter III** [ˈkaʊntər] – adv. назáд; у адварóтным кірýнку; насупрóць

– adj. супрацьлéглы, адварóтны; зусíм рóзны

– v.t. 1. супрацьстáвіць . 2. адкáзваць (*на ўдáр*)
– v.i. супярэ́чыць, выступáць супрóць, разьбівáць дóвады. 2. адбівáць удáр
– n. 1. процілéглае, адварóтнае *n.* 2. адбіцьцё ўдáру, сустрэ́чны ўдáр. 3. зáднік -а *m.* (*бóта, чаравíка*)

**counter-** [ˈkaʊntər] pref. 1. супрóць; у супрацьлéгласьці да *чагó*; контар-: ***counteract*** супрацьдзéяць. 2. які́ дапаўняе: ***counterpart*** дапаўня́льнік -а *m.*

**counterattack** [ˈkaʊntərəˌtæk] – n. контаратáка
– v. контаратакавáць

**counterattraction** [ˌkaʊntərəˈtrækʃən] n. адварóтнае прыцягнéньне

**counterbalance** [ˌkaʊntərˈbæləns] n. супрацьвáга, процівáга *f.*

**counterblow** [ˈkaʊntərbloʊ] n. сустрэ́чны ўдáр, контарудáр -у *m.*

**countercharge** [ˈkaʊntərtʃɑ:rdʒ] – n. 1. контаратáка *f.* 2. сустрэ́чнае абвінавáчаньне супрóць абвінавáўцы
– v.i. 1. контаратакавáць. 2. абвінавáчваць абвінавáўцу

**counterclockwise** [ˌkaʊntərˈklɑ:kwaɪz] adj., adv. супрóць гадзíньнікавае стрэ́лкі

**counterfeit** [ˈkaʊntərfɪt] – adj. 1. падрóблены; несапрáўдны; фальшы́вы: ***counterfeit coin*** фальшы́вая манэ́та. 2. удавáны, няшчы́ры
– n. 1. падрóбка *f.*; ашукáнства *n.* 2. кóпія *f.*, падабéнства *n.*
– v.t. 1. падрабля́ць, фальшавáць: ***to counterfeit a five-dollar bill*** падрабíць пяцíдаляррóўку. 2. удавáць

**counterfoil** [ˈkaʊntərfɔɪl] n. кантрóльны карэ́ньчык (*білéта, чэ́ка*)

**countermand** [ˈkaʊntərmænd] – v.t. адклікáць, касавáць (*загáд, замóву*)
– n. адклікáньне папярэ́дняга загáду

**counteroffensive** [ˈkaʊntərəˌfensɪv] n. контарнаступ -у *m.*

**counterpart** [ˈkaʊntərpɑ:rt] n. 1. адпавéднік -а *m.* 2. дапаўнéньне *n.*: ***Night is the counterpart of day*** Ноч — гэта дапаўнéньне дня. 3. кóпія *f.*, дублікáт -у *m.*

**counterpoise** [ˈkaʊntərpɔɪz] – n. 1. раўнавáга *f.* 2. супрацьвáга, процівáга *f.*
– v.t. ураўнавáжваць, супрацьвáжыць

**counterrevolution** [ˌkaʊntərˌrevəˈlu:ʃən] n. контаррэвалю́цыя *f.*

**countersign** [ˈkaʊntərsaɪn] n. 1. Milit. адкáз -у *m.* (*на парóль*). 2. пóдпіс, які́ пацьвярджáе другі

**countess** [ˈkaʊntəs] n. графíня *f.*

**countless** [ˈkaʊntləs] adj. незьлічóны; шматлíкі

**country** [ˈkʌntri] n., pl. **-tries** 1. краíна *f.*, крaй -ю *m.*; бáцькаўшчына *f.* 2. мясцóвасьць *f.*, раён -у *m.*, вакóліца *f.* 3. сéльскі раён, вёска *f.*: ***in the country*** на вёсцы
– adj. 1. вяскóвы, селавы́: ***country food*** вяскóвая ёжа. 2. рóдны

**countryman** [ˈkʌntrɪmən] n., pl. **-men** 1. суайчы́ньнік -а, зямля́к, землякá *m.* 2. селянíн -а *m.*; вяскóвец -ўца *m.*

**countryside** [ˈkʌntrɪsaɪd] n. 1. вяскóвая мясцóвасьць. 2. вакóліца *f.*

**countrywoman** [ˈkʌntrɪˌwʊmən] n., pl. **-women** 1. суайчы́ньніца, зямля́чка *f.* 2. вяскóвая жанчы́на

**county** [ˈkaʊnti] n., pl. **-ties** 1. акрýга *f.* (*у штáце*). 2. Brit. грáфства *n.*

**coup** [ku:] n.1. блíскýчы ўчы́нак, нечакáны ўдáлы ход. 2. пераварóт -у *m.*: ***coup d'etat*** дзяржáўны пераварóт

**couple** [ˈkʌpəl] – n. 1. пáра *f.*, два, дзьве. 2. пáра *f.*, муж і жóнка, нарачóныя *pl.*, партнэ́ры. 3. Mech. пáра сíлаў. 4. Electr. элемэ́нт -у *m.*
– v.t. 1. зьвя́зваць, спалучáць рáзам, злучáць пáрамі, счэ́пліваць (*вагóны*). 2. жанíць
– v.i. 1. спарóўвацца (*пра жывёлу*). 2. злучáцца пáрамі

**couplet** [ˈkʌplət] n. рыфмавáнае двухрадкóўе

**coupling** [ˈkʌplɪŋ] n.1. спалучáньне *n.*; спарóўваньне *n.* (*пра жывёлу*). 2. Tech. сьця́жка *f.*; счэп -у *m.* (*памíж вагóнамі*)

**coupon** [ˈku:pɑ:n] n. 1. купóн -а *m.* 2. талён -а *m.*

**courage** [ˈkɜ:rɪdʒ] n. адвáга, сьмéласьць, мýжнасьць *f.*

**courageous** [kəˈreɪdʒəs] adj. адвáжны, сьмéлы, бясстрáшны

**courier** [ˈkɜ:riər] n. 1. пасьпéшны пасланéц, кур'éр -а *m.* 2. сакрэ́тны агéнт

**course** [kɔ:rs] – n. 1. хадá *f.*, ход -у *m.*: ***the course of events*** хадá падзéяў. 2. курс -у *m.* (*караблЯ*), кірýн|ак -ку *m.* 3. шлях -у *m.*; цячэ́ньне ракí; рэ́чышча *n.*, лíнія дзéяньня. 4. звычáйны парáдак, чаргóвасьць, пасьлядóўнасьць вы́падкаў, падзéяў: ***the course of nature*** натурáльны парáдак рэ́чаў. 5. а) курс (*лéкцыяў, навучáньня*). б) адзíн прадмéт. 6. стрáва *f.*: ***Soup was the first course*** Суп быў пéршай стрáвай
– v.t. перасьлéдаваць, гнáцца па пя́тах; гнáцца за зьвéрам (*з ганчакáмі*)
– v.i. 1. бéгчы. 2. цячы́. 3.курсавáць: ***Airplanes course the area daily*** Самалёты курсýюць у гэ́тай зóне штодня́

• ***courses*** мéсячныя *pl. only,* мэнструáцыя *f.*

• ***in due course*** у адпавéдным чáсе; крыхý пазьнéй, неўзабáве

• ***in the course of*** у чáсе *чагó*

• ***of course*** 1. вéдама, пэ́ўна. 2. натурáльна, як і трэ́ба былó чакáць

• ***race course*** трэк -у *m.*

**court** [kɔ:rt] n. 1. двор, дварá *m.* 2. пляцóўка для гýльняў, корт -у *m.* (*тэ́нісны*). 3. а) каралéўскі двор, палáц. б) сям'я́ й прыдвóрныя. 4. суд -ý *m.* (*будынак, судзьдзя́ абó сýдзьдзі*): ***Supreme Court*** Вярхóўны Суд

• ***court disaster*** наклікáць няшчáсьце, бядý

• ***out of court*** па-за-судóм: ***settle out of court*** пагадзíцца без судý

• ***pay court to*** 1. шукáць прыхíльнасьці ў *кагó*, старáцца дагадзíць *камý*. 2. заляцáцца да *кагó*

**courteous** [ˈkɜ:rtiəs] adj. вéтлівы; далікáтны, пачцíвы

**courteously** [ˈkɜ:rtiəsli] adv. вéтліва; паслýжліва; пачцíва

**courtesy** [ˈkɜ:rtəsi] n., pl. **-sies** 1. вéтлівасьць *f.*, увáжлівасьць да другíх. 2. ласкáвасьць, лáска *f.*; паслýга *f.* 3. рэвэрáнс -у *m.*

• ***of/by courtesy*** праз вéтлівасьць, дзя́куючы вéтлівасьці

**courtier** [ˈkɔ:rtiər] n. прыдвóрн|ы -ага *m.*, прыдвóрная *f.*

**courtship** [ˈkɔ:rtʃɪp] n. 1. заляцáньне *n.*, залёты *pl. only.* 2. шукáньне прыхíльнасьці

**courtyard** [ˈkɔ:rtjɑ:rd] n. двор, дварá *m.* (*пры дóме*), панадвóр|ак -ка *m.*, дзядзíн|ец -ца *m.* (*пры зáмку*)

**cousin** [ˈkʌzən] n. 1. брацéнік -а *m.*, стрыéчны брат, кузэ́н -а *m.* 2. стрыéчная сястрá, кузы́на *f.*: ***second cousin*** 1. брат *абó* сястрá трэ́цяе стрэ́чы; траюрадны брат, траюрадная сястрá. 2. далёкая радня́; сурóдзіч -а *m.*, сурóдзічка *f.*

**cove** [kouv] n. 1. малáя бýхта, бýхтачка *f.* 2. закýт|ак -ка *m.*, зацíшны кутóк. 3. Arch. скляпéньне *n.*

**covenant** [ˈkʌvənənt] n. 1. пагаднéньне *n.* 2. Law умóва *f.*

**cover** [ˈkʌvər] – n. 1. вóкладка *f.* (*кнíгі*); нáкрыўка *f.* (*гаршкá, слóіка*). 2. прыкрыцьцё, пóкрыва *n.*; зáсьціл -у *m.*: ***under the cover of night*** пад пóкрывам нóчы. 3. ахóва *f.*; схóвішча *n.*, укрыцьцё *n.* 4. зáрасьнік -у *m.* 5. прыбóр -у *m.* (*на сталé для яды́*). 6. канвэ́рт -а *m.*
– v.t. 1. закрывáць; пакрывáць; засьцілáць (*стол*): ***Snow covered the ground*** Сьнег пакры́ў зямлю́. 2. апранáц|ь (-ца); адзявáц|ь (-ца); насíць; надзéць шáпку на галавý. 3. (*пра птýшку*) сядзéць на я́йках. 4. (*пра самцá*) пакрывáць (*сáмку*). 5. засланя́ць (*ад вéтру*); закрывáць; ахóўваць. 6. хавáць, скрывáць, утóйваць (*пачýцьці, памы́лку*). 7. ахапля́ць (*тэ́му, матэрыя́л*). 8. займáць (*прастóру*), расьця́гвацца. 9. пра-

éхаць, зрабíць: ***to cover a distance*** праéхаць адлéгласьць. 10. пакрывáць (*выдáткі*). 11. пісáць рэпартáж, фатаграфавáць (*для прэ́сы*)

• ***break cover*** вы́йсьці са схóвішча

• ***cover up*** 1. прыкрывáць, пакрывáць, а) абкладáць (*пра хмáры*). б) прысыпáць, засыпáць. в) абхýтваць, захýтваць. 2. хавáць, адмаўля́цца сказáць *або́* паказáць

• ***run for cover*** шукáць схóвішча, хавáцца

• ***under cover*** схавáны, тáйны, замаскавáны

**coverage** [ˈkʌvərɪdʒ] n. 1. ахóп -у *m.* 2. пакрыцьцё *n.* 3. зóна дзéяньня. 4. апісáньне, насьвятлéньне ў прэ́се

**covered** [ˈkʌvərd] adj. пакры́ты, накры́ты

**covering** [ˈkʌvərɪŋ] n. пóкрыва *n.*, вóпратка *f.*

**covert** [ˈkoʊvɜːrt] – adj. скры́ты, скры́тны (*харáктар*), схавáны, прыхавáны, замаскавáны: ***covert glances*** пóзіркі крадкóм

– n. 1. патаéмнае мéсца. 2. зáрасьнік -у *m.* 3. апярэ́ньне *n.*

**cover-up** [ˈkʌvərʌp] n. хавáньне *n.* (*загáны, злачы́нства*)

**covet** [ˈkʌvət] v.t. 1. жадáць, прáгнуць (*недасягáльнага*). 2. зайздрóсьціць

**covetous** [ˈkʌvətəs] adj. 1. прагаві́ты, хцíвы. 2. зайздрóсны, зайздрóсьлівы

**covetousness** [ˈkʌvətəsnəs] n. скýпасьць, жáдлівасьць, прáгнасьць *f.* 2. зайздрóснасьць *f.*

**covey** [ˈkʌvi] n., pl. **-eys** 1. вы́вад|ак -ку *m.* (*птушаня́т*). 2. дзéці аднаé мáткі (*бацькóў*); чарадá, грýпа, сям'я́ *f.*

**cow I** [kaʊ] n.,pl. **cows** or Archaic **kine** 1. карóва *f.* 2. сáмка сланá, насарóга, кітá, цюлéня

**cow II** [kaʊ] v.t. запалóхваць

**cow barn,** esp. Brit. карóўнік -а *m.*, абóра *f.*

**coward** [ˈkaʊərd] – n. баязьлíвец -ўца *m.*, баязьлíўка *f.*, трус -á *m.*

– adj. баязьлíвы, трусьлíвы

**cowardice** [ˈkaʊərdɪs] n. баязьлíвасьць, трусьлíвасьць *f.*

**cowardly** [ˈkaʊərdli] – adj. баязьлíвы

– adv. баязьлíва, трусьлíва

**cowboy** [ˈkaʊbɔɪ] n. каўбóй -я *m.*, пастýх -á *m.* (*кóнны*)

**cower** [ˈkaʊər] v.i. кýрчыцца (*ад стрáху, хóладу*); хістáцца; згінáцца

**cowherd** [ˈkaʊhɜːrd] n. пастýх -á *m.*

**cowhide** [ˈkaʊhaɪd] – n. 1. карóвіна скýра. 2. пýга *f.*, бізýн -á *m.*

– v.t. сьцябáць пýгай, біць бізунóм

**cowl** [kaʊl] n. 1. рáса *f.*, манáская сутáна з капюшóнам; капюшóн -а *m.* 2. каўпáк над кóмінам. 3. Tech. капóт матóра

**coxcomb** [ˈkɑːkskoʊm] n. 1. зазнáйка *f.*, пусты́, самазадавóлены чалавéк. 2. а) пéўнеў грэ́бень. б) Bot. пéўнеў грабéнчык

**coxcombry** [ˈkɑːkskoʊmri] n. зазнáйства, самазадавóленасьць

**coy** [kɔɪ] adj. 1. сарамлíвы; нясьмéлы, палахлíвы, сьцíплы, скрóмны. 2. які́ прыкíдваецца сарамлíвым, какéтліва стры́маны

**cozy** [ˈkoʊzi] adj. утýльны

**crab I** [kræb] – n. 1. Zool. краб -а *m.* 2. бурклíвы чалавéк. 3. Tech. лябёдка *f.* (*машы́на для падымáньня грýзу*)

– v.i. 1. лавíць крáбаў. 2. Informal чапля́цца, шукáць дзíркі ў цэ́лым

**crab II** [kræb] n. 1. дзíкі я́блык. 2. дзíкая я́блыня

**crack** [kræk] – n. 1. раскóліна, расшчэ́піна, шчы́ліна *f.* 2. ля́скат -у *m.* (*бізунá*). 3. імгнéньне *n.*, мóмант -у *m.* 4. Sl. зьéдлівая заўвáга. 5. Sl. а) крадзéж з узлóмам. б) злóдзей-узлóмшчык

– adj., Informal надзвычáйны, знакамíты

– v.t. 1. раскóлваць. 2. лýшчыць (*арэ́хі*). 3. ля́скаць (*пýгаю*). 4. Informal мóцна ўдарáць. 5. псавáць нéчую рэпутáцыю. 6. Informal расшыфрóўваць. 7. Chem. раскладáць, разьдзяля́ць на склáднікі

– v.i. 1. расшчапляцца. 2. трэскацца. 3. ламацца, не вытрымваць, зрывацца (*пра голас*): ***He cracked under the strain*** Ён заламаўся пад ціскам

• ***crack down*** ужыць паважныя захады, націснуць

• ***crack one's whip*** лязнуць пугаю

**cracked** [krækt] adj. 1. расшчэплены, трэснуты. 2. сіплы, хрыпаты, перарывісты (*голас*). 3. пахіснуты (*давер, рэпутацыя*).4. Informal звар'яцелы, разумова хворы

**cracker** ['krækər] n. тонкі хрусткі сухарык, крэкер -а *m.*

**crackle** ['krækəl] – v.i. 1. трашчэць, патрэскваць (*пра агонь*). 2. трэскацца (*пра шкло*)

– n. трэшчына, расшчэпіна *f.*; патрэскваньне *n.*, трэск -у *m.*

**crackling** ['kræklıŋ] n. 1. скварка *f.* 2. патрэскваньне *n.*: ***crackle of a fire*** патрэскваньне агню

**cradle** ['kreıdəl] – n. 1. калыска *f.* 2. Figur. маленства *n.* 3. вытокі *pl.*, аснова *f.* 4. Tech. рама, апора *f.*

– v.t. 1.калыхаць. 2. узгадоўваць з маленства

**craft** [kræft] – n. 1. спраўнасьць *f.*, умельства, мастацтва *n.* 2. рамяство *n.* 3. цэх -у *m.* 4. хітрасьць *f.*, ашуканства, махлярства *n.* 5. судна *n.*, вадаплаў -ва *m.*, самалёт -а *m.*: ***Construction of aircraft and spacecraft requires great knowledge*** Пабудова самалётаў і касьмічных караблёў вымагае вялікіх ведаў

– v.t. працаваць *або* рабіць нешта прафэсійна

**craftily** ['kræftıli] adv. 1. хітра; па-махлярску. 2. Archaic умела

**craftiness** ['kræftınəs] n. хітрасьць *f.*, хітрыкі *pl.*; вераломства *n.*, подступ -у *m.*

**craftsman** ['kræftsmən] n., pl. **-men** 1. майстlар -ра, рамесьнік -а *m.* 2. мастак -а, майстрlа -ы *m.*

**craftsmanship** ['kræftsmənʃıp] n. майстэрства, майстроўства *n.*

**crafty** ['kræfti] adj. хітры, падступны: ***a crafty fox*** хітрая лісіца; ***a crafty villain*** падступны нягоднік

**crag** [kræg] n. стромкая скала, строма

**craggy** ['krægi] adj. скалісты, няроўны

**cram** [kræm] – v.t. 1. упіхваць (*рэчы*). 2. набіваць бітком, перапаўняць. 3. напіхацlь (-ца) (*ежаю*), адкормліваць (*жывёлу*). 4. Informal убіваць некаму веды. 5. Sl. расказваць небылі, перабольшваць

– v.i. 1. аб'ядацца, хутка есьці. 2. зубрыць (*асабл. перад экзамэнамі*)

– n. 1. цяснота *f.*; сьціск -у *m.*, таўкучка *f.* 2. зубрэньне матэрыялу

• ***crammed full*** перапоўнены, бітком набіты; запханы, напханы

**cramp I** [kræmp] – n. курч -у *m.*, сутарга *f.*

– v.t. выклікаць *або* мець спазму, курч

• ***cramps*** спазмы ў жываце

**cramp II** [kræmp] – n. 1. заціскачка *f.*, клямlар -ра *m.* 2. зьвязанасьць *f.*, абмежаваньне *n.*

– v.t. 1. змацоўваць, сашчапляць. 2. зьвязваць, сьціскаць. 3. перашкаджаць (*разьвіцьцю*); абмяжоўваць

**cramped** [kræmpt] adj. 1. скручаны сутаргай. 2. сьціснуты, абмежаваны (*у прасторы*). 3. неразборлівы (*почырк*)

**cranberry** ['kræn,beri] n., pl. **-ries** журавіны *pl.*

**cranberry jelly** журавіннае жэле

**cranberry sauce** журавінавае павідла

**crane** [kreın] – n. 1. Zool. журалlвель -ўля *m.*, жорлаў -ава *m.* 2. пад'ёмны кран

– v.t. 1. выцягваць шыю (*каб пабачыць нешта*). 2. падымаць, пераносіць кранам

**cranial** ['kreıniəl] adj. чарапны: ***cranial nerves*** нэрвы чэрапу, чарапныя нэрвы

**cranium** ['kreıniəm] n., pl. **-niums, -nia** 1. чэрап -а *m.* (*косьці галавы*). 2. мазгавая частка чэрапу

**crank I** [kræŋk] – n. 1. Tech. крывашып -а *m.*, калена *n.*; завадная ручка. 2.

дзіва́цтва *n.*; капры́з -у *m.*; фанта́зія *f.* 3. Brit. слабы́, кво́лы; хвараві́ты; ненарма́льны
– v.t. 1. заво́дзіць (*мэхані́зм*) ру́чкаю. 2. прысьпяша́ць, падганя́ць: ***to crank up production*** прысьпе́шыць вытво́рчасьць

**crank II** [kræŋk] adj. 1. хі́сткі, расхі́станы. 2. Figur. дзіва́цкі: ***a crank telephone call*** дзіва́цкі тэлефо́нны зваво́к. 3. Brit. нестабі́льны

**crankshaft** [ˈkræŋkʃæft] n. кале́нчаты вал

**cranky** [ˈkræŋki] adj. 1. капры́зны (*пра дзіця́*), злы; зло́сны, лёгка раздражня́льны; рэ́зкі. 2. дзівакава́ты, эксцэнтры́чны. 3. хі́сткі, расшэ́йданы, няспра́ўны (*аб мэхані́зьме*)

**cranny** [ˈkræni] n., pl. **-nies** расшчэ́піна *f.*; раско́ліна, шчы́ліна *f.*

**crash I** [kræʃ] – n. 1. трэск -у *m.*; гру́кат, грук -у *m.* 2. крах -у *m.*, банкру́цтва *n.* 3. а) ава́рыя *f.* б) няўда́лая паса́дка самалёта
– v.t. 1. уда́рыць *або́* разьбі́ць з трэ́скам. 2. Informal: ***to crash the party*** прыйсьці́ на вечары́ну незапро́шаным. 3. разьбі́ць, зьбіць (*самалёт*)
– v.i. 1. пабі́цца. 2. трэ́скаць (*як пяру́н*). 3. а) разьбі́цца(*пра самалёт*). б) сту́кнуцца (*пра аўтамабі́лі*). 4. пацярпе́ць крах, збанкрутава́ць
• ***crash the gate*** пралéзьці безь біле́ту

**crash II** [kræʃ] n. сураво́е палатно́

**crass** [kræs] adj. 1. по́ўны; канчатко́вы, абсалю́тны: ***crass ignorance*** по́ўнае не́вуцтва. 2. про́сты, недаліка́тны, грубія́нскі

**crassitude** [ˈkræsɪtu:d] n. 1. кра́йняя ту́пасьць, дурно́та, бязглу́здасьць. 2. грубія́нскасьць *f.*; недаліка́тнасьць *f.*

**crate** [kreɪt] – n. вялі́кая скры́ня-ра́ма, кош каша́ *m.* (*для пераво́зу*)
– v.t. упако́ўваць у скры́ні

**cravat** [ krəˈvæt] n. 1. га́льштук -а *m.* 2. шаліь -я *m.*, ша́лік -а *m.*

**crave** [kreɪv] v.t. 1. пра́гнуць, жада́ць, мо́цна хаце́ць: ***The thirsty man craved water*** Сасма́глы чалаве́к пра́гнуў вады́; ***to crave affection*** пра́гнуць ла́скі. 2. мо́цна прасі́ць, упро́шваць: ***to crave a favor*** прасі́ць паслу́гі. 3. вымага́ць, патрабава́ць

**craven** [ˈkreɪvən] – adj. баязьлі́вы; маладу́шны
– n. баязьлі́вец -ўца *m.*
• ***cry craven*** зда́цца, збая́цца

**craving** [ˈkreɪvɪŋ] n. мо́цнае жада́ньне, пра́га, ця́га *f.*: ***craving for food*** мо́цны го́лад: ***craving for knowledge*** пра́га ве́ды, ця́га да ве́даў

**crawfish** [ˈkrɔ:fɪʃ] – n., pl. **-fishes** or coll. **-fish** малы́ прэснаво́дны рак -а *m.*
– v.i. падава́цца наза́д, адступа́цца, адмаўля́цца

**crawl** [krɔ:l] – v.i. 1. по́ўзаць, паўзьці́. 2. Figur. цягну́цца, паво́льна ру́хацца: ***The traffic crawled*** Аўты ледзь паўзьлі́. 3. кішэ́ць (*ад мура́шак*). 4. адчува́ць мура́шак па сьпіне́; чуць дры́жыкі ад стра́ху. 5. паўзьці́ (*пра расьлі́ны*)
– n. 1. по́ўзаньне *n.* 2. стыль ху́ткага пла́ваньня, кроліь -ю *m.*

**crayfish** [ˈkreɪfɪʃ] n., pl. **-fishes, -fish** прэснаво́дны рак

**crayon** [ˈkreɪɑ:n] – n. 1. каляро́вы алаві́к, каляро́вая крэ́йда. 2. малю́нак, зро́блены каляро́вымі алаві́камі *ці* крэ́йдай
– v. маля́ваць каляро́вымі алаві́камі, каляро́вай крэ́йдай

**craze** [kreɪz] – n. 1. (for) ма́нія *f.*; нястры́мнае захапле́ньне не́чым. 2. вар'я́цтва *n.*, памяша́ньне ро́зуму
– v.t. даво́дзіць да ненарма́льнасьці
– v.i. вар'яце́ць, шале́ць, тра́ціць ро́зум

**crazy** [ˈkreɪzi] adj. 1. звар'яце́лы, псыхі́чна хво́ры, ненарма́льны. 2. вар'я́цкі (*напр. ду́мка, ўчы́нак*), шалёны, неразу́мны; дзі́кі. 3. Informal ве́льмі энтузіястычны, захо́плены *чым*: ***She is crazy about modern art*** Яна́ захо́пленая мадэ́рным маста́цтвам. 4. нямо́цны, кво́лы; нездаро́вы, хі́сткі

**crazy quilt** 1. коўдра, пашытая з розных кавалкаў тканіны. 2. нешта лátанае, бязладнае

**creak** [kri:k] – v. рыпéць (*пра дзьвéры*) – n. 1. рыпéньне, скрыпéньне *n.* (*дзéяньне*). 2. рып, скрып -у *m.* (*гук*)

**creakingly** [ˈkri:kɪŋli] adv. рыпýча; з рыпам, са скрыпам

**creaky** [ˈkri:ki] adj. рыпýчы, скрыпýчы

**cream** [kri:m] – n. 1. сьмятáнка *f.*, вяршкí *pl.*: ***whipped cream*** зьбíтыя вяршкí. 2. крэм -у *m.* (*касмэтычная мазь, і для абýтку*). 3. Figur. найлéпшая чáстка нéчага, сьмятáнка *f.*: ***cream of the class*** вяршкí клясы, найлéпшыя вýчні. 4. крэмавы кóлер

– v.t. 1. здымáць сьмятáну (*з малакá*). 2. расьцірáць (*на глáдкую мáсу*). 3. забéльваць (*кáву*). 4. выбірáць найлéпшае

– v.i. 1. адстóйвацца (*пра сьмятáну*). 2. пéніцца

– adj. 1. сьмятáнкавы; для сьмятáны: ***a cream pitcher*** збанóчак на сьмятáну. 2. крэмавы, з крэмам. 3. крэмавы, крэмавага кóлеру

• ***cream cheese*** сьмятáнкавы сыр

**cream-colored** [ˈkri:mˌkʌlərd] adj. крэмавы, жаўтлява-бéлы

**creamer** [ˈkri:mər] n.1. збанóчак для сьмятáны. 2. цэнтрыфýга *f.* (*для адгóну сьмятáны*). 3. парашóк-забéлка

**creamery** [ˈkri:məri] n. 1. маслабóйня *f.* 2. малачáрня *f.*

**crease** [kri:s] – n. 1. фáлда, змóршчына *f.* (*у вóпратцы*), кант -у *m.* (*на нагавíцах*). 2. лíнія (*у спартóвых гýльнях*)

– v.t. 1. рабíць фáлду, склáдкі, кант (*на пóртках*), пакамéчыць (*сукéнку*). 2. падстрэліць (*зьвярá*)

– v.i. пакамячыцца

**crease-resistant** [ˈkri:srɪˌzɪstənt] adj. які не камéчыцца *абó* мáла камéчыцца, някóмкі, нямнýткі

**creasy** [ˈkri:si] adj. фалдавáны; памяты, пакамéчаны (*спаднíца*), пакарабáчаны (*áркуш папéры*)

**create** [kriˈeɪt] v.t. 1. стварáць, тварыць. 2. рабíць; выклікáць, спрычыняць: ***Do not create a disturbance*** Не рабéце замяшáньня. 3. надавáць звáньне, тытул: ***to create someone an earl*** надáць нéкаму тытул грáфа

**creation** [kriˈeɪʃən] n. 1. тварэньне, стварэньне *n.* 2. ствóраны сьвет, усякае стварэньне. 3. твор -у *m.* (*літаратýрны, мастáцкі ці музычны*)

• ***the Creation*** стварэньне сусьвéту Бóгам

**creative** [kriˈeɪtɪv] adj. твóрчы

**creator** [kriˈeɪtər] n. 1. твóрц|а -ы *m.* 2. стварáльнік -а *m.*

• ***the Creator*** Бог

**creature** [ˈkri:tʃər] n. 1. істóта *f.*, стварэньне *n.* 2. стáўленік -а *m.*, крэатýра *f.*: ***He was a creature of his supervisor*** Ён быў стáўленікам свайгó начáльніка

**creature comforts** жыцьцёвыя выгóды

**credence** [ˈkri:dəns] n. 1. вéра *f.*, давéр - у *m.* 2. рэкамэндáцыя *f.*: ***a letter of credence*** рэкамэндацыйны ліст

**credential** [krəˈdentʃəl] n. мандáт -у *m.*, пасьвéдчаньне асóбы; рэкамэндáцыя *f.*

• ***credentials*** давéрчыя лісты

**credible** [ˈkredəbəl] adj. якóму мóжна вéрыць; верагóдны

**credit** [ˈkredət] – n. 1. вéра *f.*, давéр -у *m.*: ***to give credit to something*** даць вéры нéчаму, павéрыць. 2. павéр -у, крэдыт -у *m.*; доўг, даўгý *m.* 3. а) сýма, запíсаная на прыбытак. б) прáвы бок бухгáльтарскае кнíгі. 4. верагóднасьць *f.*; дóбрая рэпутáцыя, дóбрае імя: ***a citizen of credit*** грамадзянін з дóбрай рэпутáцыяй. 5. прызнáньне *n.*: ***She gets no credit for her work*** Янá ня мáе прызнáньня за сваю прáцу. 6. тóе, што прынóсіць гóнар, пахвалý: ***The boy is a credit to his family*** Хлóпчык — гóнар ягóнае сям'і. 7. залічэньне кýрсу, залíк -у *m.*, залíчаны прадмéт

– v.t. 1. давáць вéры, давярáць *камýчамý.* 2. крэдытавáць. 3. залічáць вýчню прадмéт *абó* курс. 4. прыпíсваць, прызнавáць

• ***do credit to*** прынóсіць гóнар *камý*
• ***give (a person) credit for*** прызнáць *камý* заслýгу: ***to give him credit for his achievement*** прызнáць ягóнае дасягнéньне
• ***on credit*** напавéр, у доўг, у крэдыт
**creditable** [ˈkredətəbəl] adj. 1. які прынóсіць гóнар, слáву. 2. пахвáльны
**creditor** [ˈkredətər] n. 1. крэдытóр -а *m.* 2. крэдытны бок у бухгáльтарскай кнíзе
**credo** [ˈkreɪdoʊ] n. 1. вéраваньне *n.*, пераканáнасьць *f.*, крэ́да *n., indecl.* 2. сьмбаль вéры (*у хрысьціянаў*)
**credulity** [krəˈdu:ləti] n. лёгкавéрнасьць *f.*
**credulous** [ˈkredjʊləs] adj. лёгкавéрны, давéрлівы
**creed** [kri:d] n. 1. веравучэ́ньне *n.* 2. крэ́да *n., indecl.*
• ***the Creed*** сымбаль вéры
**creek** [kri:k] n. 1. ручаёк -йкá, прытóк -а *m.* 2. Brit. зáвадзь, затóка *f.*
• ***up the creek,*** Sl. у клóпаце, у бядзé
**creel** [kri:l] n. 1. кош на рыбу. 2. рáмка (*для шпýлькі*)
**creep** [kri:p] – v.i. **crept, creeping** 1. пóўзаць, паўзьцí. 2. Figur. павóльна рýхацца, паўзьцí. 3. падкрадáцца: ***to creep into someone's favor*** уцéрціся ў нéчую лáску; прыніжáцца пéрад *кім.* 4. слáцца (*па зямлí, пра паўзýчыя расьлíны*). 5. уздрыгваць, чуць мурáшкі на цéле: ***It made my flesh creep*** У мянé ад гэ́тага мурáшкі на цéле
– n. 1. паўзéньне, пóўзаньне *n.* 2. Geol. абвáл -у *m.*, апóўзень -зьня *m.* 3. Phys. паўзýчасьць (*павóльная дэфармáцыя*). 5. Sl. нікчэ́мны чалавéк
**creeper** [kri:pər] n. 1. паўзýн -á *m.* (*дзіця́*), паўзýха *f.* 2. паўзýчая расьлíна; жывёліна з паўзунóў. 3. Tech. дрáга *f.*; паўзýн -á *m.*
• ***creepers*** 1. паўзунóк -кá *m.* (*дзіця́чы камбінэзóнчык*). 2. кóшкі, кóшак *pl.* (*на падэ́шве*)
**creepy** [ˈkri:pi] adj. 1. стрáшны, агíдны. 2. паўзýчы
**cremate** [ˈkri:meɪt] v. спáльваць (*труп*)
**cremation** [ˈkrɪˈmeɪʃən] n. спáльваньне трýпаў, крэмáцыя *f.*
**crematory** [ˈkri:mətɔ:ri] n., pl. **-ries** 1. печ для крэмáцыі. 2. крэматóрый -ю *m.*
**crescent** [ˈkresənt] – n. серп мéсяца; паўмéсяц -а *m.*; маладзíк -á *m.*
– adj. 1. серпападóбны. 2. які падрастáе; які ўзрастáе; які разьвівáецца
**crest** [krest] – n. 1. грэ́бень -я *m.* (*у пéўня*), чубóк -кá *m.* (*у птýшкі ці жывёліны*); грыва *f.* 2. нашыўная эмблéма, адзнáка спартóвае *абó* іншае арганізáцыі. 3. плюмáж шлéма. 4. грэ́бень -я *m.*, вéрхні крáй (*лéсу, хвáлі, гары*), вяршыня́ *f.*
– v. 1. вянчáць, увéнчваць, дасягáць вяршыні. 2. уздымáцца (*пра хвáлі*)
**crestfallen** [ˈkrestˌfɔ:lən] adj. з апýшчанай галавóю, прыгнéчаны, абезнадзéены, зьнявéраны
**cretin** [ˈkri:tən] n. крэтын -а *m.*
**cretinism** [ˈkri:tənˌɪzəm] n. крэтынізм -у *m.*
**cretinous** [ˈkri:tənəs] adj. недаразьвíты, прыдýркаваты
**crevice** [ˈkrevɪs] n. вузкáя расшчэ́піна, шчыліна *f.*
**crew I** [kru:] n. 1. экíпáж -у *m.*, камáнда *f.* 2. брыгáда, зьмéна *f.*; арцéль рабóтнікаў. 3. шáйка, бáнда *f.*; гýрба *f.*; збóрышча *n.*
**crew II** [kru:] v., *p.t. of* **crow I**
**crib** [krɪb] – n. 1. дзіця́чы лóжачак. 2. жóлаб -а *m.*; стóйла *n.* 2. драўля́нае ўмацавáньне ў шáхце. 4. Informal пляґія́т -у *m.* 5. Informal шпаргáлка *f.* (*шкóльная*) . 6. Informal малáя хáтка, канýрка *f.* 7. сьвíран -на *m.*, скрыня *f.*; засéк -у *m.*
– v. 1. рабíць умацавáньне (*у шáхце*). 2. Informal сьпíсваць
**cricket I** [ˈkrɪkət] n. цвыркýн -á *m.*
**cricket II** [ˈkrɪkət] – n. 1. крыкет -у *m.* (*гульня́*). 2. Informal сумлéнная гульня́; сумлéннасьць, шчырасьць, адкрытасьць *f.*: ***it is not cricket*** не па прáвілах, несумлéнна, нíзка

– adj. згóдна з прáвіламі, сумлéнны
– v.i. гуля́ць у кры́кет
**crier** [ˈkraɪər] n. 1. крыкýн -á *m.*, крыкý-ха *f.* 2. вяшчýн вешчунá, вястýн вестунá *m.*
**crime** [ˈkraɪm] n. 1. злачы́нства *n.*, крымінáл -у *m.*; парушэ́ньне закóну. 2. грэх, грахý *m.*, дрэ́нны ўчы́нак
**criminal** [ˈkrɪmɪnəl] – n. злачы́н|ец -ца *m.*
– adj. злачы́нны, крымінáльны: ***criminal law*** крымінáльнае прáва; ***criminal action*** крымінáльная спрáва
**criminality** [ˌkrɪmɪˈnæləti] n., pl. **-ties** 1. злачы́ннасьць *f.* 2. злачы́нства *n.*
**criminate** [ˈkrɪmɪneɪt] v.t. 1. абвінавáчваць, вінавáціць. 2. інкрымінавáць
**crimp** [krɪmp] – v.t. гафры́раваць; завівáць (*валасы́*)
– adj. хвáлісты
**crimpy** [ˈkrɪmpi] adj. хвáлісты, у склáдку
**crimson** [ˈkrɪmzən] – n. бáрва *f.*, густачырвóны кóлер
– adj. барвóвы
– v. мóцна чырванéць (*ад сóраму*)
**cringe** [krɪŋdʒ] – v.i. 1. кýрчыцца, гнýцца (*ад стрáху, бóлю*). 2. выдыгáць, прыні́жана клáняцца
– n. рáбскае прыніжэ́ньне, выдыгáньне, нізкапаклóнства
**cripple** [ˈkrɪpəl] – n. 1. калéк|а -і *m.& f.*, кульгáв|ы -ага *m.* 2. густы́ зáрасьнік на багністай мясцóвасьці
– adj. абязьвéчаны, зьнявéчаны, скалéчаны; кульгáвы
– v.t. 1. калéчыць, рабíць кульгáвым. 2. шкóдзіць, псавáць
**crisis** [ˈkraɪsɪs] n., pl. **-ses** [ˈkraɪsi:z] 1. кры́зіс -у *m.* 2. пералóм -у *m.* (*у падзéях*)
**crisp** [krɪsp] – adj. 1. крóхкі, лóмкі; хрýсткі. 2. сьвéжы, асьвяжáльны (*пра павéтра*). 3. жывы́, я́сны, вырáзны (*пра стыль*). 4. памóршчаны, усхвалявáны (*мóра*). 5. кучарáвы
– v.i. завівáцца; хрусьцéць
**crisscross** [ˈkrɪskrɔ:s] – adj. 1. які́ перакрыжóўваецца. 2. перакрыжавáны (*дóпыт*)
– adv. 1. крыж-нáкрыж, упóперак. 2. кры́ва, кóса, няпрáвільна
– v.t. перакрыжóўваць, аплятáць нéшта крыж-нáкрыж
– n. дзіця́чая гульня́ ў кры́жыкі
**criterion** [kraɪˈtɪriən] n., pl. **-ria** or **-rions** прáвіла *n.*, мéрка *f.*, крытэ́ры|й -ю *m.*
**critic** [ˈkrɪtɪk] n. 1. кры́тык -а *m.* 2. крытыкáн -а *m.*
**critical** [ˈkrɪtɪkəl] adj. 1. а) крыты́чны. б) прыдзíрлівы, крытыкáнскі: ***a critical judgment*** крыты́чны пагля́д; ***a critical disposition*** прыдзíрлівае стáўленьне. 2. крыты́чны, небясьпéчны: ***His delay was critical*** Ягóная затры́мка былá небясьпéчная. 3. неабхóдны
**criticize**, Brit. **criticise** [ˈkrɪtɪsaɪz] v. крытыкавáць
**criticism** [ˈkrɪtɪˌsɪzəm] n. 1. кры́тыка *f.* 2. крытыцы́зм -у *m.*, крыты́чнае стáўленьне да *чагó*
**critique** [krɪˈti:k] n. 1. кры́тыка *f.* (*літаратýрная, мастáцкая*). 2. крыты́чны агля́д, арты́кул
**croak** [kroʊk] – n. 1. квáканьне *n.* (*жáбаў*), кáрканьне *n.* (*варóны, крумкачá*)
– v.i. 1. квáкаць, кáркаць. 2. бурчэ́ць, наракáць, прарóчыць бядý, крáкаць. 3. Sl. памéрці
**Croat** [ˈkroʊæt] or **Croatian** [kroʊˈeɪʃən] n. 1. харвáт -а *m.*, харвáтка *f.* 2. харвáцкая мóва
**crochet** [kroʊˈʃeɪ] v. вязáць кручкóм
**crock I** [krɑ:k] n. гліня́ны гаршчóк, збанóк -кá, глады́ш -á *m.*
**crock II** [krɑ:k] n. 1. старáя авéчка, стары́ конь (*кля́ча*), здыхля́ціна *f.* 2. стары́ лядáшчы чалавéк
**crockery** [ˈkrɑ:kəri] n. ганчáрскія вы́рабы (*пóсуд*), фая́нсавы пóсуд
**crocodile** [ˈkrɑ:kədaɪl] – n. кракадзíл -а *m.*
– adj. кракадзíлавы (*сьлёзы*)
**croissant** [kwaˈsɑ̃:] n. рагáлік -а *m.* (*бýлачка*)
**crony** [ˈkroʊni] n., pl. **-nies** неразлýчны, шчы́ры ся́бра

**cronyism** [ˈkrouniˌɪzəm] n. кумаўство́ *n.*, блат -у *m.*

**crook** [krʊk] – n. 1. крук -á *m.* 2. вы́гін -у *m.*, вы́гіб -у *m.* (*у рацэ́*), загі́б -у *m.*, лука́ *f.* 3. згіб -у *m.* (*рукí ў ло́кці*). 4. Informal круц|е́ль -ляя́, махля́р -á *m.*; зло́дзе|й -я *m.*

– v.i. закру́чвац|ь (-ца), загіна́ц|ь (-ца)

**crooked** [ˈkrʊkɪd] adj. 1. крывы́, загну́ты, скру́чаны. 2. несумле́нны, круце́льскі; няпра́вільны

**croon** [kru:n] – v.t. напява́ць, ціхенька пяя́ць, цурчэ́ць (*пра руча́й*)

– n. a) ці́хае напява́ньне. б) цурчэ́ньне (*ручаю́*), го́ман (*ле́су*)

**crop** [krɑ:p] – n. 1. Agric. культу́ра *f.* (*збо́жжа, бу́льба*). 2. ураджа́|й -ю, збор -у *m.* 3. ко́ратка падстры́жаныя валасы́. 4. вальлё -я́ *n.*, вальля́к -á *m.* (*у пту́шак*). 5. пугаўё *n.*; хлыст -á *m.*

– v.t. **crop, cropped, cropping** 1. абрэ́зваць, абраза́ць (*берагí кнíгі*); стры́гчы (*валасы́*), падрэ́зваць (*ву́ха, хвост*). 2. (*пра жывёлу*) шчыпа́ць, скубсьці́ (*траву́*), аб'яда́ць (*галі́нкі*). 3. засява́ць, гадава́ць. 4. дава́ць ураджа́й; радзíць

• ***crop up, crop out*** нечака́на зьяві́цца, раптóўна паказа́цца

**cropper** [ˈkrɑ:pər] n. 1. касl|е́ц -ца́ *m.*; жнец, жняца́ *m.* 2. касі́лка, жняя́рка *f.* 3. здóльнік (*у бавалняных раёнах*). 4. Informal ця́жкае падзе́ньне; права́л, крах -у *m.*

**cross** [krɔ:s] – n. 1. крыж -а *m* : ***to make a (the) sign of the cross*** хрысьці́цца, жагна́цца. 2. перахóд -у *m.*, ме́сца для перахо́ду; перакрыжава́ньне *n.* (*ву́ліцаў*). 3. цярпе́ньні, цяжа́р абавя́зку; няшча́сьці *pl.*, крыж -á *m.*: ***to bear one's cross without complaining*** не́сьці свой крыж без нарака́ньня. 4. Biol. гібры́д -а *m.*, скрыжава́ньне (*ра́саў*), праду́кт скрыжава́ньня. 5. Sl. ашука́нства

– v. 1. перахóдзіць, пераяжджа́ць не́шта ўпóперак: ***cross the street*** перайсьці́ на другí бок ву́ліцы; ***cross the ocean*** перапра́віцца праз акія́н. 2. склада́ць на́крыж (*ру́кі*): ***to cross one's legs*** пакла́сьці нагу́ за нагу́. 3. перасяка́ц|ь (-ца) (*пра дарóгі, ву́ліцы*), скрыжóўвацца. 4. перанóсіць, перавóзіць праз *што*. 5. мі́на́ц|ь (-ца), разьміна́цца: ***Our letters have crossed*** На́шыя лісты́ разьміну́ліся. 6. супраці́віцца не́чай вóлі, пярэ́чыць *каму́*, перашкаджа́ць *каму́*

– adj. 1. папярэ́чны, перасе́чны, перася́кальны, які́ крыжу́ецца: ***cross streets*** перасе́чныя ву́ліцы. 2. злóсны, рэ́зкі: ***I have never heard a cross word from him*** Я ніко́лі ня чуў ад яго́ благóга слóва. 3. супрацьле́глы (*ве́цер, ду́мка*), супраці́ўны. 4. скрыжава́ны (*з рóзных парóдаў, гату́нкаў*)

• ***cross off*** адзна́чыць кры́жыкам, вы́красьліць

• ***cross one's heart*** пабажы́цца

• ***cross one's mind*** прыйсьці́ не́каму на ду́мку

• ***cross one's path*** сустрэ́цца *або́* разьміну́цца з *кім*

• ***cross oneself*** перахрысьці́цца, пераражагна́цца

• ***cross out*** вы́красьліць: ***cross out the wrong word*** вы́красьліць няпра́вільнае слóва

**crossbred** [ˈkrɔ:sbred] – adj. скрыжава́ны

– n. пóмесь *f.*; гібры́д -а *m.*

**crossbreeding** [ˈkrɔ:sbri:dɪŋ] n. скрыжóўваньне парóдаў, гату́нкаў

**cross-country** [ˌkrɔ:sˈkʌntri] adj.1. які́ прахóдзіць па перасе́чанай мясцóвасьці; нацянькі́ (*не па дарóзе*): ***a cross-country race*** крос -у *m.*; спабóрніцтвы ў бе́гу па перасе́чанай мясцóвасьці. 2. праз уве́сь край: ***a cross-country tour*** падарóжжа праз уве́сь край

**crosscut** [ˈkrɔ:skʌt] – adj. 1. які́ рэ́жа, разрэ́заны ўпóперак: ***a crosscut saw*** папярóчная пі́ла́

– n. 1. папярóчная пі́ла. 2. папярóчны разрэ́з

– v.t. рэ́заць упóперак

**cross-examination** [ˌkrɔ:sɪgˌzæmə'neɪʃən] n. 1. перакрыжава́ны до́пыт. 2. дакла́днае распы́тваньне

**cross-examine** [ˌkrɔ:səg'zæmɪn] v.t. 1. ве́сьці перакрыжава́ны до́пыт. 2. дакла́дна распы́тваць

**cross-eye** ['krɔ:saɪ] n. касаво́касьць *f.*

**cross-eyed** ['krɔ:saɪd] adj. касаво́кі

**crossing** ['krɔ:sɪŋ] n. 1. скрыжава́ньне *n.* (*пункт, ме́сца*). 2. ме́сца перахо́ду *або́* перае́зду (*ву́ліцы, чыгу́нкі*); перапра́ва *f.* (*праз раку́*). 3. Biol. крыжава́ньне *n.*

**crossness** ['krɔ:snəs] n. раздражня́льнасьць, зласьлі́васьць, сварлі́васьць *f.*

**crossroad** ['krɔ:sroʊd] n. 1. перасе́чная даро́га. 2. даро́га, яка́я спалуча́е галё́ўныя даро́гі

**crossroads** ['krɔ:sroʊdz] n. скрыжава́ньне *n.* (*даро́г*), ростань *f.*

• ***at the crossroads*** на раздаро́жжы, на ро́станях

**cross-stitch** ['krɔ:sstɪtʃ] – n. 1. кры́жык -а *m.* (*у вы́шыўцы*). 2. вы́шыўка кры́жыкам

– v. вышыва́ць кры́жыкам

**crosstown** [ˌkrɔ:s'taʊn] adj. да другі́га канца́ го́раду, праз уве́сь го́рад (*напр. аўто́бус*)

**crosswalk** ['krɔ:swɔ:k] n. перахо́д (*праз ву́ліцу*)

**crossway** ['krɔ:sweɪ] n., **crossways** *гл.* **crossroad(s)**

**crosswind** ['krɔ:swɪnd] n. сустрэ́чны ве́цер

**crosswise** ['krɔ:swaɪz] adv. 1. упо́перак, на́крыж. 2. у фо́рме кры́жа. 3. Figur. няпра́вільна, наадваро́т

**crossword** ['krɔ:swɜ:rd] n. крыжава́нка *f.*, красво́рд -а *m.*

**crotch** [krɑ:tʃ] n. 1. разгалінава́ньне *n.*, разьві́ліна *f.*, раздво́ены ствол дрэ́ва. 2. Anat. праме́жнасьць *f.* 3. касты́л|ь -я́ *m.*, мы́ліца *f.*

**crotchet** ['krɑ:tʃət] n. 1. дзіва́цтва *n.*, капры́з -у *m.* 2. кручл|о́к -ка́ *m.* 3. Mus. чвэрць но́ты, чвэ́ртка *f.*

**crotchety** ['krɑ:tʃəti] adj. дзівакава́ты, капры́зны

**crouch** [kraʊtʃ] – v.i. 1. прысяда́ць, прыпада́ць (*да зямлі́*). 2. гну́цца (*рабале́пна, прыні́жана*), сагну́цца; ку́рчыцца (*ад хо́ладу ці стра́ху*)

– v.t. ні́зка гну́ць (*сьпі́ну*), схіля́ць

**croup I** [kru:p] n. круп -у *m.*

**croup II** [kru:p] n., Anat. крыж -а́ *m.*

**crow I** [kroʊ] n. 1.варо́на *f.* 2. лом -у *m.*

• ***as the crow flies*** па про́стай лі́ніі, напрасткі́

• ***crows,*** coll. вараньнё *n.*

**crow II** [kroʊ] – n. 1. сьпеў пе́ўня, кукарэ́каньне *n.* 2. ра́дасны пі́ск дзіця́ці

– v. 1. пяя́ць як пе́вень, кукарэ́каць. 2. ра́дасна пішчэ́ць (*пра дзіця́*). 3. Figur. ра́давацца; трыюмфава́ць; хвалі́цца

**crowbar** ['kroʊbɑ:r] n. лом -а *m.*

**crowd** [kraʊd] – n. 1. гурт -у *m.*, гу́рба *f.*, нато́ўп -у *m.* 2. ма́сы *pl.*: ***to appeal to the crowd*** падаба́цца ма́сам. 3. вялі́кая ко́лькасьць, мно́ства *n.* 4. Informal гру́па *f.*, тава́рыства *n.*

– v.t. 1. сьціска́ць, шту́рхаць, прыціска́ць у цесната́. 2. напаўня́ць, набіва́ць бітко́м (*аўто́бус*). 3. Informal абляга́ць (*не́кага*) з дамага́ньнямі (*пра крэдыто́раў*)

**crowded** ['kraʊdɪd] adj. 1. напо́ўнены (*людзьмі́ або́ рэ́чамі*); шматлю́дны: ***crowded meeting*** шматлю́дны сход. 2. по́ўны, набі́ты бітко́м. 3. пасе́яны загу́ста (*пра расьлі́ны*)

**crowfoot** ['kroʊfʊt] n., pl. **-foots,** Bot. казял|е́ц -ьцу́ *m.*

**crowfoot family** казяльцо́выя *pl.*

**crowing** ['kroʊɪŋ] n. сьпеў пе́ўня, кукарэ́каньне *n.*

**crown** [kraʊn] – n. 1. 1. а) каро́на *f.* б) каралё́ўская ўла́да. в) каро́ль караля́ *m.*, карале́ва *f.* 2. вян|о́к -ка́ *m.* (*з кра́сак*); вян|е́ц -ца́ *m.* 3. го́нар -у *m.*, узнагаро́да. 4. галава́ *f.* 5. кро́на дрэ́ва, верхаві́на ўзго́рка, гары́. 6. каро́нка *f.* (*зу́ба*)

– v. 1. каранава́ць. 2. стая́ць на вяршы́ні *чаго́*. 3. вянча́ць, уве́нчваць. 4. ста́віць каро́нку

– adj. каро́нны; ура́давы
• ***the Crown*** каралёўская ўла́да

**crow's foot** [ˈkrouzfut] n., pl. **-feet** варо́ніны ла́пкі (*маршчы́ны*)

**crow's-nest** 1. варо́ніна гняздо́. 2. назіра́льная пляцо́ўка (*на ма́чце*)

**crucial** [ˈkru:ʃəl] adj. 1. неабхо́дны, ве́льмі ва́жны, выраша́льны (*мо́мант, до́сьлед*); крыты́чны (*пэры́яд*). 2. Anat. крыжападо́бны

**crucible** [ˈkru:səbəl] n. 1. ты́гел|ь -я *m.* (*для пла́ўленьня мэта́лаў*). 2. суро́вае выпрабава́ньне

**crucifix** [ˈkru:səfiks] n. 1. расьпя́цьце *n.* 2. крыж (*як сы́мбаль хрысьція́нства*)

**crucifixion** [ˌkru:səˈfıkʃən] n. укрыжава́ньне, расьпя́цьце *n.*

**crucify** [ˈkru:sıfaı] v. 1. укрыжо́ўваць. 2. зьдзе́кавацца, катава́ць, перасьле́даваць; вінава́ціць *або́* кара́ць за чужы́я памы́лкі

**crude** [kru:d] – adj. 1. прыблі́зны, неапрацава́ны, сыры́: ***a crude data*** сыры́я да́дзеныя. 2. про́сты, прыміты́ўны: ***a crude log cabin*** про́стая бу́дка зь бярве́ньня. 3. прыблі́зны: ***a crude marriage rate*** прыблі́зны працэ́нт жані́мстваў (*у статы́стыцы*). 4. нячэ́саны, гру́бы (*мане́ры*); безгусто́ўны: ***a crude remark*** гру́бая заўва́га
– n. неачы́шчаная на́фта

**crude oil** на́фта *f.*

**cruel** [ˈkru:əl] adj. 1. лю́ты; сі́берны. 2. жо́рсткі, разьлютава́ны, неміласэ́рны (*учы́нак*): ***a cruel war*** жо́рсткая вайна́

**cruelty** [ˈkru:əlti] n., pl. **-ties** лю́тасьць, жо́рсткасьць *f.*

**cruet** [ˈkru:ıt] n. малы́ графі́нчык (*для во́цату або́ але́ю*)

**cruise** [kru:z] – v. 1. разьяжджа́ць, падаро́жнічаць (*без азна́чанага кіру́нку ці мэ́ты*). 2. рабі́ць рэйс; курсава́ць, кружы́ць: ***Taxis cruise looking for fares*** Таксі́ кру́жаць, шука́ючы пасажы́раў
– n. марско́е падаро́жжа, экску́рсія *f.*

**crumb** [krʌm] – n. 1. кро́шка *f.* 2. мя́кіш -у *m.* (*хле́ба, бу́лкі*). 3. Figur. кры́шку, крыху́: ***a crumb of comfort*** крыху́ выго́ды
– v.t. 1. крышы́ць. 2. абсыпа́ць кро́шкамі, ука́чваць у кро́шках. 3. Informal зьмята́ць кро́шкі
– v.i. крышы́цца, распада́цца

**crumble** [ˈkrʌmbəl] – v.t. 1. крышы́ць, раскры́шваць, расьціра́ць на дро́бныя кава́лкі, раздрабля́ць. 2. разбура́ць, разьбіва́ць, ні́шчыць
– v.i. 1. крышы́цца. 2. абсыпа́цца. 3. распада́цца, разва́львацца (*пра мур*)

**crumple** [ˈkrʌmpəl] – v. 1. ко́мчыць; каме́чыць, камячы́ць. 2. камячы́цца, ко́мчыцца. 3. па́даць, зьнемага́цца
– n. камя́к -а́ *m.*, камячо́к -ка́ *m.*

**crunch** [krʌntʃ] – v.t. хрумста́ць; разду́шваць (*з трэ́скам*)
– v.i. хрусьце́ць; рыпе́ць: ***The snow crunched under our feet*** Сьнег хрусьце́ў пад нага́мі
– n. 1. хрумста́ньне *n.* 2. рыпе́ньне *n.* 3. Sl. выраша́льная ста́дыя

**crusade** [kru:ˈseıd] – n. 1. крыжо́вы пахо́д. 2. Figur. пахо́д -у *m.*, кампа́нія *f.*: ***the crusade against cancer*** кампа́нія змага́ньня з ра́кам
– v.i. браць удзе́л у пахо́дзе

**crusader** [kru:ˈseıdər] n. 1. крыжано́с|ец -ца, крыжа́к -а́ *m.* 2. удзе́льнік кампа́ніі, пахо́ду

**crush** [krʌʃ] – v.t. 1. ламáць; крышы́ць; разьбіва́ць. 2. ко́мчыць, каме́чыць; мяць: ***to crush together*** скаме́чыць, ско́мчыць. 3. таўчы; драбі́ць; расьціра́ць. 4. а) душы́ць (*супраці́ў*). б) заняво́льваць. 5. выціска́ць
– v.i. лама́цца; крышы́цца
– n. 1. разду́шваньне, расьціска́ньне *n.*, разгро́м -у *m.* 2. ціскані́на, штурхані́на, таўкатня́ *f.* 3. а) захапле́ньне *n.*, глыбо́кая сымпа́тыя: ***have a crush on someone*** быць мо́цна закаха́ным у не́кага, чуць сымпа́тыю да не́кага. б) аб'е́кт сымпа́тыі

**crust** [krʌst] – n. 1. скары́нка *f.*, акра́лец -йца *m.* 2. а) зацьвярдзе́лы пласт

(*шкарлýпінка*). б) ра́кавінка *f.* (*ра́ка, кра́ба*), панцы́р чарапа́хі. 3. Geol. зямна́я кара́. 4. струп -а *m.* (*на ра́не*). 4. аса́д|ак -ку *m.* (*віна́*)
– v. пакры́ц|ь (-ца) скары́нкаю, каро́ю

**crustacean** or **crustaceous** [krʌˈsteɪʃən]
– adj., Zool. ракападо́бны
– n. ракападо́бн|ы -ага *m.*

**crutch** [krʌtʃ] n. 1. мы́ліца *f.* 2. Figur. апо́ра, падтры́мка *f.*

**cry** [kraɪ] – v., **cried, crying** 1. пла́каць. 2. крыча́ць; го́ласна клі́каць (*на дапамо́гу*)
– n. 1. плач, ля́мант -у *m.* 2. крык -у *m.*, клі́каньне *m.* (*на дапамо́гу*). 3. за́клік, кліч -у *m.*; во́кліч, вы́крык -у *m.* 4. Figur. агу́льная ду́мка, дамага́ньне. 5. про́сьба *f.*, мале́ньне *n.*
• ***cry down*** прымянша́ць; прыніжа́ць, абніжа́ць ва́ртасьць, крытыкава́ць
• ***cry for*** прасі́ць, дамага́цца чаго́
• ***cry off*** зрыва́ць умо́ву; адступі́цца
• ***cry one's heart*** or ***eyes out*** го́рка пла́каць, вы́плакаць во́чы
• ***cry out*** а) го́ласна кры́кнуць. б) нарака́ць
• ***cry up*** хвалі́ць, праслаўля́ць
• ***in full cry*** у блі́зкім перасьле́дзе

**crybaby** [ˈkraɪˌbeɪbi] n., pl. **-bies** пла́ксa -ы *m. & f.*, плаксу́ха *f.*, плаксу́н -а́ *m.*

**crying** [ˈkraɪɪŋ] adj. 1. які́ пла́ча, крычы́ць. 2. які́ выклі́кае ля́мант, абура́льны: ***a crying evil*** недапушча́льнае зло

**crypt** [krɪpt] n. склеп -у *m.*; кры́пта *f.*

**crystal** [ˈkrɪstəl] – n. 1. крышта́л|ь -я́ *m.* 2. крышта́л|ь -ю, хруста́л|ь -ю́ *m.* а) крышта́льнае шкло. б) вы́рабы з крышталю́. 3. шке́льца, шкло (*для ручно́га гадзі́ньніка*). 4. Radio крышта́лік -а *m.*
– adj.1. крышталёвы, крышта́льны, хруста́льны: ***a crystal vase*** крышталёвая ва́за. 2. чы́сты, празры́сты (*як крышта́ль*)

**crystalline** [ˈkrɪstələn] adj. 1. крышта́лічны (*напр. паро́да*). 2. крышта́льны. 3. сьве́тлы, чы́сты, празры́сты

**crystalline lens** крышта́лік (*во́ка*)

**crystallize** or **crystallise** [ˈkrɪstəlaɪz] v. 1. крышталізава́ц|ь (-ца). 2. зацу́крываць|ь (-ца), зацукрава́ц|ь (-ца). 3. крышталізава́цца (*пра ду́мку, ідэ́ю*)

**cub** [kʌb] n. 1. маладо́е медзьвядзянё, ваўчанё; шчанё дзі́кага зьве́ра. 2. Figur. малакасо́с -а *m.*; шчаню́к -а́ *m.*
• ***cub reporter*** недасьве́дчаны рэпартэ́р
• ***cub scout*** ваўчо́к (*у ска́ўтынгу*)

**cube** [kju:b] – n., Math. 1. куб -а *m.* (*геамэтры́чная фігу́ра*). 2. куб -а *m.*, трэ́цяя ступе́нь: ***The cube of 4 is 64*** 4 у ку́бе ёсьць 64
– v.t. 1. рэ́заць на ку́бікі (*бу́льбу, бура́к*). 2. узво́дзіць у трэ́цюю ступе́нь. 3. вылі́ча́ць кубату́ру

**cubic** [ˈkju:bɪk] or **cubical,** adj. кубі́чны

**cubism** [ˈkju:bˌɪzəm] n. кубі́зм -у *m.* (*стыль у маста́цтве*)

**cuckoo** [ˈku:ku:] – n. зязю́ля *f.*
– adj.,Sl. ненарма́льны; неразу́мны, дуракава́ты
– v. кукава́ць

**cucumber** [ˈkju:kʌmbər] n. 1. гур|о́к -ка́ *m., pl.* 2. гуро́чнік -у *m.*
• ***cool as a cucumber*** а) халодны. б) зусі́м спако́йны, апанава́ны

**cud** [kʌd] n. жва́чка, жу́йка *f.*

**cuddle** [ˈkʌdəl] – v.t. 1. тулі́ць, прытуля́ць. 2. пяшчо́тна абдыма́ць
– v.i. прытуля́цца, прымо́шчвацца
– n. абды́мкі *pl. only*

**cudgel** [ˈkʌdʒəl] n. дубі́нка *f.*

**cue I** [kju:] – n. 1. Theatr. рэ́пліка *f.* 2. намёк -у *m.*, падка́зка *f.*
– v., Sl. дава́ць намёк, намяка́ць

**cue II** [kju:] n. кі|й -я *m.* (*більярдны*)

**cuff I** [kʌf] n. 1. манжэ́т -а *m.* 2. адвароты *pl.* (*на нагаві́цах*). 3. кайданы́ *pl.*
• ***off the cuff*** без падрыхто́ўкі, экспро́мптам
• ***on the cuff*** у доўг, на крэ́дыт, напаве́р

**cuff II** [kʌf] – n. уда́р руко́ю
– v.t. удара́ць руко́ю

**cuff link** за́пінка *f.* (*да манжэ́таў*)

**cuisine** [kwɪˈziːn] n. ку́хня f., куха́рства n., стыль е́жы: ***Belarusian cuisine*** белару́ская ку́хня
**culinary** [ˈkʌləneri] adj. 1. кулiна́рны; кухо́нны. 2. куха́рскі
**cull** [kʌl] – v.t. 1. выбіра́ць, адбіра́ць (*ле́пшае*). 2. а) перабіра́ць. б) адкіда́ць (*го́ршае*)
– n. не́шта забракава́нае
**cullender** [ˈkʌləndər] n. *гл.* **colander**
**culminate** [ˈkʌlmɪneɪt] v. дасяга́ць найвышэ́йшага пу́нкту, узды́му
**culmination** [ˌkʌlmɪˈneɪʃən] n. найвышэ́йшы пункт, кульміна́цыя f.
**culpability** [kʌlpəˈbɪləti] n. вінава́тасьць f.
**culpable** [ˈkʌlpəbəl] adj. вінава́ты, які́ заслуго́ўвае нага́ны
**cult** [kʌlt] n. культ -у m.
**cultivate** [ˈkʌltɪveɪt] v.t. 1. апрацо́ўваць, абрабля́ць (*зямлю́*). 2. гадава́ць, выро́шчваць (*расьлі́ны*). 3. падтры́мваць (*знаёмства*). 4. удаскана́льваць; разьвіва́ць: ***to cultivate one's mind*** разьвіва́ць ро́зум
**cultivation** [ˌkʌltɪˈveɪʃən] n. 1. апрацо́ўка f., абрабля́ньне n. (*зямлі́*). 2. удаскана́леньне n.; разьвіцьцё n. 3. удаскана́льваньне, разьвіва́ньне n. 4. разво́джаньне n. (*ле́пшых гату́нкаў*)
**cultivator** [ˈkʌltɪveɪtər] n. 1. земляро́б -а m. 2. культыва́тар -а m. (*машы́на*)
**cultural** [ˈkʌltʃərəl] adj. культу́рны
**culture** [ˈkʌltʃər] n. 1. культу́ра f. 2. разьвіцьцё духо́вае *або́* фізы́чнае. 3. а) апрацо́ўка зямлі́; разво́джаньне, выро́шчваньне n., гадо́ўля f.: ***the culture of vine*** вінагра́дарства n.; ***bee culture*** пчаля́рства. б) сэле́кцыя f. 4. Biol. культу́ра f., выро́шчваньне бактэ́рыяў (*для до́сьледаў*)
**cultured** [ˈkʌltʃərd] adj. 1. культу́рны (*чалаве́к*). 2. гадава́ны, культывава́ны: ***cultured pearls*** гадава́ныя пэ́рлы
**culvert** [ˈkʌlvərt] n. вадасьцёчная труба́; адво́дная кана́ва
**cumber** [ˈkʌmbər] – v.t. 1. абцяжа́рваць; турбава́ць. 2. заміна́ць, перашкаджа́ць
– n. замі́нка, перашко́да f.; цяжа́р -у m.
**cumbersome** [ˈkʌmbərsəm] or **cumbrous** [ˈkʌmbrəs] adj. 1. нехлямя́жы, нязру́чны, груба́сткі. 2. невыго́дны; няёмкі; цяжкава́ты, цяжкі́
**cumin** [ˈkʌmɪn] n. кмен кмену m. (*расьлі́на й зе́рне*)
**cumquat** [ˈkʌmkwɑːt] n., *гл.* **kumquat**
**cumulation** [ˌkjuːmjəˈleɪʃən] n. 1. награма́джваньне, нагрува́шчваньне, назапа́шваньне, зьбіра́ньне n. 2. ку́ча, ма́са f.
**cumulate** [ˈkjuːmjəleɪt] v. зьбіра́ць; назапа́шваць (*вялі́кія ко́лькасьці*); награма́джваць
**cumulative** [ˈkjuːmjələtɪv] adj. назьбіра́ны, сабра́ны, назапа́шаны; награма́джаны
**cumulative dividend** складáныя працэ́нты
**cunning** [ˈkʌnɪŋ] – adj. 1. хі́тры. 2. уме́лы, спра́ўны. 3. US., Informal прыва́бны: ***a cunning smile*** прыва́бная ўсьме́шка
– n. 1. хі́трасьць f., спры́т -у m. 2. спры́тнасьць f.; уме́льства n.
**cup** [kʌp] n. 1. ку́бак -ка m. 2. ча́рка f. 3. ча́ша f. 4. падвянo´чак -ка m. (*кве́ткі*). 5. Sport пераxо́дны ку́бак
• ***in one's cups*** п'яны́
**cupboard** [ˈkʌbərd] n. буфэ́т -а m., ша́фа на по́суд, праду́кты
**cupful** [ˈkʌpfʊl] n., pl. **-fuls** по́ўны ку́бак (*як ме́рка*)
**cupid** [ˈkjuːpɪd] n. купідо́н, аму́р -а m.
**cupidity** [kjuˈpɪdəti] n. пра́га, прагаві́тасьць f.; хці́васьць f.
**cupola** [ˈkjuːpələ] n. 1. ку́пал -а m. 2. ваграна́ка f. (*печ для пла́ўкі чыгу́ну*)
**cupreous** [ˈkjuːpriəs] adj. 1. медзяны́, ме́дны. 2. медзяні́стага, чырво́на-руды́ ко́леру
**curability** [ˌkjʊrəˈbɪləti] n. вылe´чнасьць f. (*хваро́бы*)
**curable** [ˈkjʊrəbəl] adj. вылe´чны
**curate** [ˈkjʊrət] n., esp. Brit. намe´сьнік прыхо́дзкага сьвятара́, віка́рый -я m.

**curative** [ˈkjʊrətɪv] adj. 1. гаючы, які аздараўляе (*пра паветра*). 2. лячэбны
**curator** [ˈkjʊreɪtər] n. 1. захавальнік -а *m.* (*музэя, бібліятэкі, галерэі*), захавальніца *f.* 2. загадчык -а *m.*, загадчыца *f.*; наглядчык -а *m.*, наглядчыца *f.* 3. Law апякун -а *m.*, апякунка *f.*
**curb** [kɜ:rb] – n. 1. абочына (*ходніка*), броўка *f.*, рабравік -а *m.* 2. калодзежны зруб. 3. аброць *f.*; вуздэчка *f.*: ***to put a curb on*** утаймаваць (*каня, злосьць*)
– v. 1. утаймоўваць. 2. а) надзяваць аброць. б) трымаць на аброці, у паслушэнстве
**curd** [kɜ:rd] – n. тва|рог -рагу *m.*
– v. абрызгаць, сьцісацца (*пра малако*)
**curdle** [ˈkɜ:rdəl] v.i. 1. (*пра малако*) абрызгаць, сьцісацца; адкіпаць (*пры кіпячэньні*). 2. згусаць, зварочвацца
• ***curdle the blood*** моцна перапалохаць
**cure** [kjʊr] – v.t. 1. лячыць, вылечваць. 2. пазбывацца (*благое звычкі*). 3. кансэрваваць
– n. 1. срод|ак -ку *m.*: ***a rest cure*** лячэньне адпачынкам. 2. лек -у m.; лекі *pl.*: ***There can be no cure*** На гэта няма лекаў
**cure-all** [ˈkjʊrɔ:l] n. панацэя, лек ад усіх хваробаў
**curfew** [ˈkɜ:rfju:] n. 1. камэндантцкая, паліцэйская гадзіна. 2. забароненая гадзіна
**curiosity** [ˌkjuriˈɑ:səti] n., pl. **-ties** 1. цікаўнасьць *f.* 2. дапытлівасьць, дасужасьць *f.* 3. дзіўная *або* рэдкая рэч; дзіва *n.*, навінка *f.* 4. дзіўнасьць, цікавасьць *f.*; незвычайнасьць, рэдкаснасьць *f.*: ***the curiosity of the place*** незвычайнасьць месца
**curious** [ˈkjuriəs] adj. 1. цікаўны. 2. дзіўны, незвычайны. 3. Informal эксцэнтрычны
**curl** [kɜ:rl] – v. 1. завіваць (*валасы*). 2. завівацца; кучаравіцца (*пра валасы*). 3. віцца (*пра дым*). 4. скручвацца
– n. 1. кудзер -а *m.*, пасма *f.* (*валасоў*), локан -а *m.* 2. сьпіраль *f.*, колца (*дыму*). 3. завіўка *f.*
• ***curl up*** а) скручвацца (*пра вужаку*). б) сесьці, падкорчыўшы ногі. в) Informal заламацца, здацца, адступіцца ад *чаго*
• ***in curl*** кучаравы, завіты
**curly** [ˈkɜ:rli] adj. кучаравы, пакручасты; хвалісты (*пра лінію*)
**currant** [ˈkɜ:rənt] n. парэчка *f.* (*куст і ягада*)
**currency** [ˈkɜ:rənsi] n., pl. **-cies** 1. валюта *f.*, грошы *pl. only.* 2. распаўсюджаньне *n.*: ***to give currency to something*** пушчаць нешта ў рух, распаўсюджваць. 3. агульная ўжывальнасьць, ужыт|ак -ку *m.*, папулярнасьць *f.*: ***to have little currency*** быць мала ўжывальным (*пра слова*), мала папулярным (*пра пагляд*)
**current** [ˈkɜ:rənt] – n. 1. плынь *f.*; струмен|ь -я *m.*, паток -у *m.*: ***river current*** рачная плынь; ***air current*** паветраная плынь, паветраны струмень. 2. Electr. ток -у *m.* 3. курс, ход -у *m.*, агульны кірунак, накіраванасьць *f.*: ***the current of public opinion*** накіраванасьць публічнай думкі
– adj. 1. бягучы, цяперашні: ***current events*** бягучыя падзеі; ***current account*** бягучы рахунак. 2. хадзячы (*анэкдот, вестка*). 3. агульнаўжывальны (*выраз*); агульнапрыняты, агульнапашыраны (*пагляд*)
**curriculum** [kəˈrɪkjələm] n., pl. **-lums, -la** курс, плян навучаньня; праграма (*унівэрсытэту, каледжу*)
**curriculum vitae** [kəˌrɪkjələmˈvaɪti:] n. жыцьцяпіс -у *m.*, біяграфія *f.*
**currier** [ˈkɜ:riər] n. гарбар -а *m.*
**curriery** [ˈkɜ:riəri] n., pl. **-eries** 1. гарбарства *n.* 2. гарбарня *f.*, гарбарны завод
**curry I** [ˈkɜ:ri] v.t. **-ried, -rying** 1. чысьціць, скрэбсьці (*каня*). 2. дубіць скуру. 3. біць, лупцаваць
**curry II** [ˈkɜ:ri] n., *pl.* **-ries** 1. кары (*прыправа*). 2. страва з прыпраўкай кары

**currycomb** [ˈkɜ:rikoʊm] – n. скрэ́бла *n.*
– v.t. чы́сьціць, часа́ць (*каня́*) скрэ́блам

**curse** [kɜ:rs] – v.t. **cursed** or **curst, cursing** 1. праклінаць. 2. кля́сьці, ла́яцца. 3. вы́клясьці; адлучы́ць ад царквы́
– v.i. ла́яцца, клясьціся; блюзьнéрыць
• ***be cursed with*** цярпе́ць ад не́чага, мець не́йкую ва́ду

**curse** [kɜ:rs] n. 1. праклён -у *m.* 2. пракля́тая рэч. 3. адлучэ́ньне ад царквы́. 4. а) кля́тва *f.* б) кляцьба́ *f.* 5. пракля́цьце *n.*: ***His father's curse hung over him*** Над ім вісе́ла ба́цькава пракля́цьце

**cursed** [kɜ:rst] adj. 1. закля́ты, пракля́ты. 2. агі́дны, ненаві́сны

**cursive** [kɜ:rsɪv] – adj. скарапі́сны, курсіўны, пі́саны курсі́вам
– n. курсі́ў -ву *m.*

**cursory** [ˈkɜ:rsəri] adj. бе́глы, павярхо́ўны, зро́блены на ско́рую руку́

**curst** [kɜ:rst] – adj. 1. пракля́ты. 2. сварлі́вы, неапанава́ны
– v., *p.t. and p.p. of* **curse**

**curt** [kɜ:rt] adj. 1. каро́ткі; уры́вісты. 2. сьці́слы

**curtail** [kərˈteɪl] v. абрэ́зваць, ураза́ць, зьмянша́ць; скарача́ць

**curtailment** [kərˈteɪlmənt] n. зьмяншэ́ньне, скарачэ́ньне *n.*

**curtain** [ˈkɜ:rtən] – n. фіра́нка *f.*; засло́на *f.* (*у тэа́тры*)
– v.t. 1. ве́шаць фіра́нкі, заве́шваць (*фіра́нкай*). 2. закрыва́ць , за́сьціць
• ***bring down the curtain on*** пакла́сьці кане́ц *чаму́*
• ***curtain call*** вы́клік арты́ста на сцэ́ну
• ***curtain fire*** агнява́я засло́на
• ***curtain off*** аддзяля́ць засло́най
• ***curtain time*** час пача́тку п'е́сы, канцэ́рту
• ***draw the curtain over*** or ***on*** утойваць
• ***raise the curtain on*** прыўзьня́ць засло́ну; раскры́ць таямні́цу
• ***the Iron Curtain*** Жале́зная Засло́на

**curts(e)y** [ˈkɜ:rtsi] – n., pl. **-sies** рэвэра́нс -у *m.*
– v.i. рабі́ць рэвэра́нс

**curvature** [ˈkɜ:rvətʃʊr] n. 1. згіб -у *m.* 2. вы́гіб -у *m.*, вы́гін -у *m.* (*рэ́чкі, даро́гі*); выпу́класьць *f.*, скрыўле́ньне *n.*: ***a curvature of the spine*** скрыўле́ньне пазвано́чніка. 3. крывізна́ *f.*, крыва́я лі́нія

**curve** [ˈkɜ:rv] – n. 1. крыва́я лі́нія, крыва́я *f.* 2. вы́гін, вы́гіб -у *m.* (*рэ́чкі, даро́гі*), крывізна́ *f.* 3. Math. крыва́я *f.* 4. дыягра́ма *f.* (*у статы́стыцы*). 5. ляка́ла *n.*, фігу́рная ліне́йка
– v. 1. гнуць, згіна́ць, выгіна́ць. 2. згіна́цца; выгіна́цца. 3. загіна́цца; заваро́чвацца, закру́чвацца (*пра даро́гу*)
– adj. сагну́ты; загну́ты, вы́гнуты

**cushion** [ˈkʊʃən] – n. 1. паду́шка, паду́шачка *f.* (*на кана́пу*). 2. Tech. паду́шка, падкла́дка *f.*
– v. зьмякча́ць: ***to cushion a shock*** зьмякчы́ць уда́р

**custard** [ˈkʌstərd] n. пу́дынг -у *m.*

**custodian** [kʌˈstoʊdiən] n. 1. захава́льнік -а *m.*, дырэ́ктар музэ́ю (*бібліятэ́кі*). 2. апяку́н апекуна́ *m.*, апяку́нка *f.* 3. вартаўні́к -а́ *m.*: ***a school custodian*** шко́льны вартаўні́к

**custody** [ˈkʌstədi] n., pl. **-dies** 1. нагля́д -у *m.*: ***to be in the custody*** быць пад нагля́дам. 2. турэ́мнае зьнявóленьне
• ***in custody*** пад ва́ртай палі́цыі, у астро́зе
• ***take into custody*** арышто́ўваць

**custom** [ˈkʌstəm] – n. 1. звы́чка *f.*, на́вык -у *m.*: ***custom to rise early*** звы́чка ра́на ўстава́ць. 2. звы́чай -ю *m.* 3. кліенту́ра *f.* 4. мы́та *n.* (*на і́мпарт*)·
– adj. 1. зро́блены на замо́ву: ***custom clothes*** во́пратка, шы́тая на замо́ву. 2. які́ ро́біць на замо́ву: ***custom tailor*** краве́ц, які́ шы́е на замо́ву

**customary** [ˈkʌstəmeri] adj. 1. згóдны са звы́чаем; звычаёвы: ***a customary celebration*** традыцы́йнае сьвяткава́ньне

**customary law** звычаёвае пра́ва

**customer** [ˈkʌstəmər] n. куп|е́ц -ца́ *m.*, пакупні́к -а́ *m.*; клie̍нт -а *m.*, кліе́нтка *f.*

**custom house** мы́тня, тамо́жня *f.*

**custom made** adj. зро́блены на замо́ву

**customs** [ˈkʌstəmz] n., pl. 1. мы́та, пада́так за ўво́з. 2. мы́тня, тамо́жня *f.*

**customs duties** мы́та *n.*, мы́тны збор

**cut** [kʌt] – v. 1. рэ́заць, разраза́ць: ***to cut meat*** рэ́заць мя́са; ***to cut one's finger*** пара́эзаць па́лец. 2. падстрыга́ць (*вала́сы*), стры́гчы, абстрыга́ць, абраза́ць: ***to cut a hedge*** абстры́гчы жыва́плот. 3. пілава́ць: ***to cut timber*** пілава́ць бярве́ньне. 4. касі́ць; жаць: ***to cut grass*** касі́ць траву́. 5. краі́ць (*адзе́ньне*). 6. сячы́ (*з ка́меня*), рэ́заць (*з дрэ́ва*), шліфава́ць, грані́ць (*кашто́ўныя камяні́*). 7. абраза́ць, скарача́ць: ***to cut expenses*** скараці́ць выда́ткі. 8. перасяка́ць, прараза́ць: ***The brook cuts the field*** Ручаёк перасяка́е по́ле; ***to cut a road through the forest*** церабі́ць даро́гу праз лес. 9. прастава́ць, ісьці́ напрасткі́. 10. прарэ́звацца (*пра зу́бы*). 11. уда́рыць, секану́ць (*пу́гаю*). 12. Figur. ра́ніць не́чыя пачу́цьці, укало́ць: ***The mean remark cut me*** Зло́сная заўва́га ўкало́ла мяне́. 13. распушча́ць: ***Gasoline cuts grease and tar*** Бэнзы́н распушча́е зма́зку і смалу́; ***to cut a drink*** разьве́сьці напо́й. 14. перараза́ць, вылуча́ць: ***to cut an engine*** вы́лучыць мато́р

– adj.1. пара́эзаны, скро́ены. 2. разьбя́ны, разьблёны, гранёны (*шкло, крышта́ль*). 3. зьні́жаны, зьме́ншаны: ***cut rate*** зьні́жаная цана́. 4. скаро́чаны, перагле́джаны

– n. 1. парэ́з, разрэ́з -у *m.*, разрэ́заная ра́на. 2. даро́га напрасткі́, скаро́т. 3. кава́лак, адрэ́з|ак -ка *m.* 4. фасо́н -у *m.*: ***the cut of a coat*** крой паліта́. 5. зьніжэ́ньне *n.* (*цэ́наў*), скарачэ́ньне *n.* (*выда́ткаў*). 6. уда́р -у *m.* (*бізуно́м*). 7. падраза́ньне *n.* (*мячо́м*). 8. про́пуск -у *m.*, вы́разанае ме́сца (*у кні́зе, фі́льме*). 9. гравю́ра *f.*

• ***cut across*** прастава́ць

• ***cut down*** 1. зраза́ць, валі́ць (*лес, дрэ́вы*). 2. скарача́ць, зьмянша́ць (*выда́ткі*)

• ***cut in*** а) умяша́цца ў гу́тарку; перапыні́ць. б) адбі́ць партнэ́ра ў та́нцы. в) урэ́зацца (*а́ўтам*)

• ***Cut it out!*** Сьці́хні! До́сыць! Перастá́нь!

• ***cut off*** а) адрэ́заць (*падво́з*). б) абрэ́заць, адсячы́ (*галі́ну*). в) вы́лучыць (*эле́ктрыку, газ*). г) пазба́віць спа́дчыны: ***to cut off all hope*** пазба́віць надзе́і

• ***cut out*** а) выкіда́ць (*ча́стку*). б) вырэ́зваць, вы́разаць; выкро́йваць: ***to cut out a dress*** скраі́ць суке́нку. в) быць ство́раным для *чаго́*. г) Sl. зрэ́заць (*з ужы́тку*): ***to cut out candy*** пераста́ць е́сьці цуке́ркі

• ***cut up*** а) парэ́заць на кава́лкі. б) Informal абра́зіць, скры́ўдзіць

**cute** [kju:t] adj., Informal. мі́лы; прые́мны; прыва́бны; прыго́жанькі

**cutlery** [ˈkʌtləri] n.1. нажы́, нажні́цы (*пры́лады рэ́заньня*). 2. стало́выя нажы́, відэ́льцы, лы́жкі. 3. рамяство́ нажо́ўшчыка

**cutlet** [ˈkʌtlət] n. 1. біт|о́к -ка́ *m.* 2. катле́та *f.*

**cutout** [ˈkʌtaʊt] n. 1. вы́раз|ак -ка *m.* (*з папе́ры, матэ́рыі*). 2. Electr. выключа́льнік, рубі́льнік -а *m.*

**cutter** [ˈkʌtər] n. 1. закро́йшчык -а *m.*, закро́йшчыца *f.* 2. раза́к -а́ *m.*, раз|е́ц -ца́ *m.* 3. ка́тэр -а *m.*

**cutthroat** [ˈkʌtθroʊt] – adj. 1. забо́йчы. 2. бязьлі́тасны, жо́рсткі, суро́вы: ***cutthroat competition*** бязьлі́тасная канкурэ́нцыя

– n. забо́йц|а -ы *m. & f.*, банды́т -а *m.*

**cutting** [ˈkʌtɪŋ] – n. 1. адрэ́заны па́растак, чаран|о́к -ка́ *m.* 2. вы́цінка з газэ́ты. 3. рэ́заньне, вырэ́званьне *n.*

– adj.1. балю́чы, во́стры, кры́ўдны, ко́лкі, зье́длівы: ***a cutting remark***

крыўдная заўвага. 2. пранізьлівы (*вецер*). 3. дасьціпны, трапны, колкі (*заўвага*)
• ***cuttings*** Brit. газэтныя выцінкі

**cyanic** [saɪˈænɪk] adj. цыянавы

**cyanide** [ˈsaɪənaɪd] n. цыянід -у *m.*

**cycle** [ˈsaɪkəl] – n. 1. пэрыяд -у *m.*; круг -у *m.*; цыкл|ь -ю *m.* 2. поўны збор (*напр. твораў*). 3. даўгі пэрыяд часу, век -у *m.* 4. самакат, ровар -а *m.*
– v. 1. праходзіць праз фазы, пэрыядычна паўтарацца. 2. езьдзіць роварам

**cycler** [ˈsaɪklər] or **cyclist,** n., esp. Brit веласіпэдыст, раварыст -а *m.*

**cyclone** [ˈsaɪkloʊn] n. цыклён -у *m.*

**cyclopedia** or **cyclopaedia** [ˌsaɪkləˈpi:diə] n. энцыкляпэдыя *f.*

**cylinder** [ˈsɪlɪndər] n. 1. Geom. цыліндз|ар -ра *m.* 2. Tech. цыліндз|ар -ра *m.*; вал|ок -ка *m.*, валік -а *m.* 3. барабан рэвальвэра

**cylindrical** [səˈlɪndrɪkəl] adj. 1. цыліндравы. 2. цыліндрычны (*пра форму*)

**cymbalist** [ˈsɪmbəlɪst] n. 1. цымбаліст -а *m.*, цымбалістка *f.* 2. той, хто грае на талерках

**cymbalom** [ˈsɪmbələm] n. цымбалы *pl.* (*музычны інструмэнт*)

**cymbals** [ˈsɪmbəlz] n. талеркі *pl.* (*ударны музычны інструмэнт*)

**cynic** [ˈsɪnɪk] – n. цынік -а *m.*
– adj. цынічны

**cynicalness** [ˈsɪnɪkəlnəs] n.цынічнасьць *f.*

**cynical** [ˈsɪnɪkəl] adj. 1. цынічны. 2. насьмешлівы, саркастычны

**cynicism** [ˈsɪnɪˌsɪzəm] n. 1. цынізм -у *m.* 2. цынічная заўвага

**cypher** [ˈsaɪfər] n., *гл.* **cipher**

**cypress** [ˈsaɪprəs] n. кіпарыс -а *m.* (*дрэва*), кіпарыс -у *m.* (*галінкі як сымбаль жалобы*)

**Cyrillic** [səˈrɪlɪk] adj. кірылічны

**cyst** [sɪst] n., Med. кіста *f.*

**czar** [zɑ:r] n. цар -а *m.*

**czardom** [ˈzɑ:rdəm] n. 1. царская ўлада. 2. царства *n.*

**Czech** [tʃek] – n. 1. чэх -а *m.*, чэшка *f.* 2. чэская мова
– adj. чэскі

**Czechoslovakian** or **Czecho-Slovakian** [ˌtʃekoʊsloʊˈvɑ:kiən] – adj. чэхаславацкі
– n. жыхар Чэхаславаччыны

# D

**D, d** [diː] n., pl. **D's** [diːz] **d's** 1. *чацьвéртая лíтара ангéльскага альфабэ́ту*. 2. Mus. рэ (*нóта*)

**dab** [dæb] **-bbed, -bbing**, – v. 1. а) лёгка дакранáцца (*мяккíм абó вóгкім*). б) прыкладáць мазь лёгкімі дóтыкамі. 2. дзяўбці́, дзёўбаць, біць, ударáць дзю́баю. 3. пакрывáць лёгкімі мазкáмі
– n. 1. лёгкі дóтык *абó* ўдáр. 2. дзяўбáньне *n.* 3. мазlóк -кá *m.*, пля́мка *f.* (*фáрбы*): ***dabs of butter on the plates*** мазкí мáсла на талéрках. 2. крышачку: ***just a dab of something*** тóлькі кры́шачку чагó-н.

**dabble** [ˈdæbəl] v. 1. мачáць, занурáць (*рýкі, нóгі ў вадý ці вáдкасьць*), абпы́рскваць, аблівáць. 2. плю́хацца, бóрсацца (*у вадзé*). 3. займáцца паамáтарску: ***to dabble at painting*** малявáць па-амáтарску

**dabbler** [ˈdæblər] n. дылетáнт, амáтар -а *m.*

**dad** [dæd] n., Informal тáт|а -ы *m.*

**daddy** [ˈdædi] n., pl. **-dies** Informal татýл|я, татýльк|а, тáтачк|а -і *m.*

**daffodil** [ˈdæfədɪl] n. жóўты нарцы́с

**dagger** [ˈdægər] – n. 1. кінжáл -а *m.* 2. Print кры́жык -а *m.* (*знак спасы́лкі*)
– v. 1. прабівáць кінжáлам. 2. абазначáць кры́жыкам-спасы́лкай
• ***at daggers drawn*** варóжы, гатóвы ваявáць
• ***look daggers (at)*** глядзéць, пазірáць на *кагó* зь нянáвісьцю

**daily** [ˈdeɪli] – adj. штодзённы, надзённы: ***daily paper*** штодзённая газэ́та; ***daily bread*** надзённы хлеб
– adv. штодня́, штодзéнь
– n., pl. **-lies** штодзённая газэ́та

**dainty** [ˈdeɪnti] – adj. 1. далікáтна прыгóжы. 2. з вы́танчаным гýстам *абó* смáкам; патрабавáльны
– n., pl. **-ies** ласýн|ак -ку *m.*; прысмáкі *pl. only*

**dairy** [ˈderi] n., pl. **-ries** 1. малачáрня *f.* 2. малóчная крáма. 3. малóчная фэ́рма; малóчная гаспадáрка: ***dairy cattle*** малóчны стáтак

**dairying** [ˈderiɪŋ] n. 1. малóчная гаспадáрка. 2. малóчная спрáва

**dairymaid** [ˈderimeɪd] n. 1. дая́рка *f.* 2. малóчніца *f.*

**dairyman** [ˈderimən] n., pl. **-men** малóчнік -а *m.*, улáсьнік малóчнай крáмы; прадавéц у малóчнай крáме

**dais** [ˈdeɪɪs] n. плятфóрма *f.*, памóст -а *m.* (*для прамóўцы абó прэзы́дыюму*)

**daisy** [ˈdeɪzi] – n., pl. **-sies** 1. маргары́тка *f.*, рамóн|ак -ку *m.* 2. Sl. першакля́сная рэч
– adj. Sl. першакля́сны, выдáтны

**dale** [deɪl] n. далíна *f.*

**dam** [dæm] – n. 1. загáта, гаць, грэ́бля *f.* 2. загáчаная вадá
– v.t. 1. гацíць. 2. затры́мваць, заблякóўваць (*спрáву*)

**damage** [ˈdæmɪdʒ] – n. 1. шко́да *f.*, пашко́джаньне, пакале́чаньне *n.* 2. Informal кошт -у *m.*, выда́так, стра́та *f.*
– v.t. шко́дзіць; псава́ць; кале́чыць
– v.i. псава́цца, быць пашко́джаным
• ***damages*** стра́ты; пакрыцьцё стра́таў, кампэнса́цыя *f.*

**damask** [ˈdæməsk] n. 1. адама́шка *f.* 2. адама́шкавае палатно́ (*на абрусы́*). 3. дама́ская сталь

**damn** [dæm] – v. 1. асуджа́ць. 2. пракліна́ць. 3. клясьці́
– adj. праклі́ты
– n. 1. кляцьба́ *f.*; праклён -у *m.*

**damnation** [dæmˈneɪʃən] n. 1. пракля́цьце *n.*, праклён -у *m.* 2. ганьбава́ньне, асуджэ́ньне *n.*

**damned** [dæmd] – adj. 1. асу́джаны, скрытыкава́ны, зганьбава́ны. 2. пракля́ты. 3. ве́льмі благі́; страшэ́нны, пяке́льны
– adv., Informal ве́льмі, стра́шна: ***it is damned hot*** пяке́льна го́рача
– n. ***the damned*** ду́шы ў пе́кле

**damp** [dæmp] – adj. 1. во́гкі, вільго́тны, сыры́: ***damp basement*** сыры́ падва́л. 2. Archaic прыгне́чаны, прыбі́ты (*го́рам*)
– adv. во́гка, вільго́тна, сы́ра
– n. 1. во́гкасьць, ві́льгаць, сы́расьць *f.* 2. марко́та, журба́ *f.* 3. руднíко́вы газ
– v.t. 1. намо́чваць, зьвільгатня́ць, рабі́ць вільго́тным. 2. прыгнята́ць; прыбіва́ць, адбіва́ць ахво́ту. 3. тушы́ць, гасі́ць (*аго́нь*). 4. Physics зьмянша́ць амплітуду хіста́ньняў (*або́ хва́ляў*), заглуша́ць (*гу́кі*)
• ***damp off*** тлець, трухле́ць; гнісьці́, гніць (*ад ві́льгаці*)

**dampen** [ˈdæmpən] v. 1. рабі́ць вільго́тным. 2. аслабля́ць, заглуша́ць. 3. прыгнята́ць, засмуча́ць; прыбіва́ць (*мара́льна*), адбіва́ць ахво́ту. 4. мо́кнуць, вільгатне́ць

**dance** [dæns] – v. танцава́ць, та́нчыць, скака́ць
– n. 1. та́нец -цу *m.*, ско́кі *pl. only.* 2. вечары́на *f.*, ве́чар з та́нцамі
– adj. танцава́льны (*му́зыка, гурто́к*)

**dancer** [ˈdænsər] n. 1. танцо́р -а *m.*, танцо́рка *f.* 2. балеры́на *f.*

**dandelion** [ˈdændəlaɪən] n. малача́й -ю *m.*, дзьмухаве́ц -ўца́ *m.*

**dandle** [ˈdændəl] v.t. 1. гу́шкаць, го́йдаць (*дзіця́ на рука́х ці на кале́нях*). 2. пе́сьціць

**dandruff** [ˈdændrəf] n. пе́рхаць *f.*

**dandy** [ˈdændi] – n. 1. франт -а, фарсу́н -а́ *m.*, дэ́ндзі *m., indecl.* 2. Informal дасканалая, першакля́сная рэч
– adj. 1. франтава́ты, фарсі́сты. 2. Informal дасканалы, першакля́сны

**Dane** [deɪn] n. датча́нін -а *m.*, датча́нка *f.*, датча́не *pl.*

**danger** [ˈdeɪndʒər] n. 1. небясьпе́ка *f.*: ***in danger*** у небясьпе́цы; ***out of danger*** у бясьпе́чным стано́вішчы, па-за́ небясьпе́кай. 2. пагро́за *f.*

**dangerous** [ˈdeɪndʒərəs] adj. небясьпе́чны

**dangle** [ˈdæŋgəl] v. 1. целяпа́цца, матля́цца, во́льна зьвіса́ць. 2. Figur. кру-ці́цца каля *каго́*; упада́ць, улягáць за *кім.* 3. целяпа́ць *чым*, матля́ць *чым*

**Danish** [ˈdeɪnɪʃ] – adj. да́цкі
– n. 1. да́цкая мо́ва. 2. да́цкае пе́чыва

**dank** [dæŋk] adj. вільго́тны, мо́кры, сыры́

**dapper** [ˈdæpər] adj. 1. аха́йны, акура́тны, элега́нтны. 2. жва́венькі, непасе́длівы

**dapple** [ˈdæpəl] – adj. 1. плямі́сты, пярэ́сты: ***a dapple horse*** пярэ́сты конь
– n. 1. пярэ́стасьць *f.* 2. пярэ́стая *або́* раба́я жывёліна
– v. пярэ́сьціцца (-ца), сьпярэ́шчваць (*пля́мамі*)

**dappled** [ˈdæpəld] adj. сьпярэ́шчаны, рабы́

**dare** [der] – v. 1. насьме́львацца, нава́жвацца; адва́жвацца: ***He won't dare to deny it*** Ён не нава́жыцца запярэ́чыць гэ́таму. 2. рызыкава́ць, не баяцца: ***to dare the dangers*** не баяцца небясьпе́кі. 3. кі́даць вы́клік: ***I dare you to jump*** А ну, ско́кні

**denominate** [dɪˈnɑ:mɪneɪt] – v. даваць назоў *чаму*, называць, абазначаць
– adj. [dɪˈnɑ:mɪnət] найменны (*лік*)
**denomination** [dɪ̩nɑ:mɪˈneɪʃən] n. 1. назва *f.*, назо|ў -ву *m.* 2. найменьне *n.*: ***to reduce kilograms and grams to the same denomination*** выразіць кіляграмы й грамы ў адным найменьні. 3. веравызнаньне *n.*, сэкта *f.*
**denominator** [dɪˈnɑ:məneɪtər] n. 1. Math. назоўнік -а *m.* (*дробу*), дзельнік -а *m.*: ***to reduce to a common denominator*** прывесьці да агульнага назоўніка
**denote** [dɪˈnoʊt] v.t. 1. значыць; абазначаць, азначаць. 2. паказваць
**denounce** [dɪˈnaʊns] v.t. 1. асуджаць, ганіць, ганьбаваць, публічна крытыкаваць. 2. выдаваць; даносіць; абвінавачваць. 3. дэнансаваць (*умову*)
**denouncement** [dɪˈnaʊnsmənt] n. *гл.* **denunciation**
**dense** [dens] adj. 1. густы: ***a dense fog*** густы туман; ***a dense forest*** пагудастая пушча. 2. глыбокі; вялікі; непрасякальны (*матэрыял*), непранікальны, непраходны. 3. шчыльны, кампактны: ***dense texture*** густая тканіна. 4. Figur. тупы, прытуплены: ***He is dense today*** Ён прытуплены сёньня
**densely** [ˈdensli] adv. густа; шчыльна: ***a densely populated area*** густа населеная мясцовасьць
**density** [ˈdensəti] n., pl. **-ties** 1. гушчыня *f.*; шчыльнасьць *f.*: ***population density*** шчыльнасьць насельніцтва, населенасьць *f.* 2. Phys. удзельная вага
**dent I** [dent] – n. 1. выемка, западзіна *f.*, уруб -у *f.* (*ад удару нечым тупым*); выбоіна *f.*; увагнутае месца. 2. слабое месца; перало́м -у *m.*
– v.t. угінаць
– v.i. угінацца
**dent II** [dent] n. 1. зубы ў коле, грэбні. 2. насечка, зарубка *f.*; зарубіна *f.*; метка *f.*, знак, сьлед -у *m.*
**dental** [ˈdentəl] – adj. 1. зубны: ***dental technician*** зубны тэхнік. 2. Phon. зубны
– n. зубны зычны: ***"T" and "d" are dentals*** «Т» і «д» — зубныя зычныя
**dented** [ˈdentɪd] adj. шчарбаты, увагнуты, уціснуты
**dentifrice** [ˈdentəfrɪs] n. зубная паста, зубны парашок
**dentin** [ˈdentɪn] n. дэнтын -у *m.* (*касьцістая частка зуба*)
**dentist** [ˈdentəst] n. зубны лекар, дантыст -а *m.*, дантыстка *f.*
**dentistry** [ˈdentɪstri] n. зубалячэньне *n.*, прафэсія зубнога лекара
**dentition** [denˈtɪʃən] n. 1. прарэзваньне зубоў. 2. форма і разьмяшчэньне зубоў: ***Dogs and wolves have the same dentition*** Сабакі й ваўкі маюць такія самыя зубы. 3. зубы *pl.*
**denture** [ˈdentʃər] n. зубны пратэз
**denude** [dɪˈnu:d] v.t. агаляць, зьдзіраць, абдзіраць, здымаць (*дагала*): ***denuded trees*** аголеныя дрэвы (*безь лістоў*)
**denunciate** [dɪˈnʌnsieɪt] v.t. *гл.* **denounce**
**denunciation** [dɪ̩nʌnsiˈeɪʃən] n. 1. публічнае асуджэньне, абвінавачаньне, данос. 2. дэнансаваньне *n.*, дэнансацыя *f.*
**denunciator** [dɪˈnʌnsieɪtər] n. абвінаваўц|а -ы, даказчык, даносчык -а *m.*, даносчыца *f.*
**deny** [dɪˈnaɪ] v.t. **-nied, -nying** 1. пярэчыць. 2. адмаўляць: ***to deny someone the favor*** адмовіць каму-н. у паслузе. 3. адмаўляцца; адпірацца; адракацца: ***to deny oneself something*** адмаўляць сабе ў чым-н.
**deodorant** [diˈoʊdərənt] – n. дэзадарант -у *m.*
– adj. які забівае пахі
**deodorize** or **deodorise** [diˈoʊdəraɪz] v. забіваць пах, пазбаўляць паху, дэзадараваць
**deoxidize** or **deoxidise** [diˈɑ:ksɪdaɪz] v. раскісьляць, адымаць кісларод
**depart** [dɪˈpɑ:rt] v.i. 1. ад'яжджаць, адыходзіць; выходзіць: ***to depart*** (from) адхіляцца (*ад нормы*). 2. памерці

**departed** [dɪˈpɑ:rtəd] – n., sing. and pl. памéрл|ы -ага *m.*, памéрлая *f.*, памéрлыя *pl.*
– adj. памéрлы, мінýлы

**department** [dɪˈpɑ:rtmənt] n. 1. аддзéл -у *m.*; галінá *f.* 2. дэпартáмэнт -у *m.*, міністэ́рств|а -а *n.*: ***the Department of Justice*** Міністэ́рства юсты́цыі; ***the State Department*** Дзяржáўны Дэпартáмэнт (*Міністэ́рства замéжных спрáваў ЗША*)

**department store** унівэрсáльная крáма, унівэрмáг -а *m.*

**departure** [dɪˈpɑ:rtʃər] n. 1. адʼéзд, адыхóд -у *m.* 2. адступлéньне *n.* (*ад стары́х нóрмаў*). 3. нóвае зыхóднае станóвішча (*дзéяньня*): ***new departures*** нóвыя шляхí (*дзéяньня, дýманьня*). 3. сьмерць *f.*

**depend** [dɪˈpend] v.t. 1. (upon) залéжаць ад *чагó*: ***to depend on the weather*** залéжаць ад надвóрʼя. 2. (on) здавáцца на *кагó-штo*; давярáцца, быць пэ́ўным у *кім-чым*. 3. (on) быць на ўтрымáньні. 4. зьвісáць

**dependable** [dɪˈpendəbəl] adj. пэ́ўны, надзéйны, верагóдны, на якóга мóжна спадзявáцца: ***dependable news*** верагóдныя вéсткі

**dependance** [dɪˈpendəns] n. *гл.* **dependence**

**dependancy** [dɪˈpendənsi] n. *гл.* **dependency**

**dependant** [dɪˈpendənt] n. *гл.* **dependent**

**dependence** [dɪˈpendəns] or **dependance** 1. (on) залéжнасьць *f.* 2. давéр -у *m.*: ***to put dependence in someone*** давярáць камý-н. 3. апóра *f.*

**dependency** [dɪˈpendənsi] n. or **dependancy**, n., pl. **-cies** 1. край *або́* тэрытóрыя, залéжныя ад íншае дзяржáвы. 2. залéжнасьць, падпарáдкаванасьць, падлéгласьць *f.* 3. прыбудóва *f.*, крылó *n.* (*будыніны*)

**dependent** [dɪˈpendənt] – adj. 1. залéжны. 2. на ўтрымáньні. 3. Gram. дадáны: ***a dependent clause*** дадáны сказ. 4. павíслы: ***dependent clusters of cherries*** павíслыя пучкí вíшань.
– n. утрымáн|ец -ца *m.*, утрымáнка *f.*

**depict** [dɪˈpɪkt] v.t. апíсваць; перадавáць (*малю́нкам, слóвамі, мýзыкай*)

**deplete** [dɪˈpli:t] v.t. вычэ́рпваць (*запáсы, сíлы*)

**deplorable** [dɪˈplɔ:rəbəl] adj. 1. жáласны, жалюгóдны; пры́кры, ганéбны: ***a deplorable accident*** пры́кры вы́падак; ***a deplorable misuse of money*** вáртае жáлю злоўжывáньне грашы́ма. 2. вéльмі благí, ганéбны: ***deplorable living conditions*** мізэ́рныя ўмóвы жыцьця́

**deplore** [dɪˈplɔ:r] v.t. шкадавáць; аплáкваць

**deploy** [dɪˈplɔɪ] – v.t. разьмяшчáць, разгóртваць; пашырáць; дысьлякóўваць: ***to deploy the military troops*** разгóртваць, разьмяшчáць вайскóвыя аддзéлы
– v.i. разьмяшчáцца; дысьлякóўвацца

**deployment** [dɪˈplɔɪmənt] n. разьмяшчэ́ньне *n.*; разгóртваньне *n.*, дысьлякáцыя *f.*

**depone** [dɪˈpoʊn] v. сьвéдчыць пад прыся́гай

**deponent** [dɪˈpoʊnənt] n. сьвéдка пад прыся́гай

**depopulate** [ˌdi:ˈpɑ:pjəleɪt] v.t. 1. абязьлю́дждваць. 2. Obsol. спусташáць (*край*)

**depopulated** [ˌdi:ˈpɑ:pjəleɪtəd] adj. абязьлю́дзелы, абязьлю́днены, абязьлю́джаны

**depopulation** [ˌdi:ˌpɑ:pjəˈleɪʃən] n. абязьлю́дніваньне, абязьлю́дзеньне *n.*

**deport** [dɪˈpɔ:rt] v.t. 1. высылáць, ссылáць (*у выгнáньне*). 2. (oneself) захóўвацца, трымáцца, трымáць сябé

**deportation** [ˌdɪpɔ:rˈteɪʃən] n. вы́сылка, ссы́лка *f.*; выгнáньне *n.*, дэпартáцыя *f.*

**deportment** [dɪˈpɔ:rtmənt] n. захавáньне, трымáньне *n.*, павóдзіны *pl. only*: ***gentlemanly deportment*** джэнтльмэ́нскія павóдзіны

**depose** [dɪˈpoʊz] v.t. 1. здымáць; скідáць (*з пасáды, трóну*). 2. сьвéдчыць

**deposit** [dɪˈpɑ:zət] – v. 1. клáсьці (*на стол, у банк*). 2. давáць задáтак. 3. адкладáць, нанóсіць: ***The flood deposited a layer of mud*** Павóдка нанéсла пласт грáзі. 4. аддавáць у схóвішча. 5. Geol. ***to be deposited*** залягáць (*пра соль, мінэрáлы*). 6. адстóйвацца; асядáць, давáць адстóй, асáдак
– n. 1. уклáд -у *m.* (*у банк*). 2. задá|так -ку *m.*; дэпазы́т -у *m.*; заклáд, залóг -у *m.* 3. адклáды *pl. only* (*пяску́, грáзі*); асáд|ак -ку *m.*; асáдкі *pl.* 4. Geol. паклáды, зáлежы *pl.*: ***deposits of coal*** паклáды камéннага вýгалю
• ***on deposit*** а) у бáнку. б) на захавáньні

**depositary** [dɪˈpɑ:zəteri] n., pl. **-taries** 1. давéраная асóба *ці* фíрма. 2. склад -у *m.*, схóвішча -а *n.*

**deposition** [ˌdepəˈzɪʃən] n. 1. звальнéньне, зьняцьце, зьвяржэ́ньне *n.* (*з пасáды, з трóну*). 2. Law дэклярáцыя *f.*, сьвéдчаньне пад прысягай, паказáньне *n.* 3. адстóйваньне *n.* (*асáдку, адстóю*), адстó|й -ю *m.*, асáд|ак -ку *m.*

**depositor** [dɪˈpɑ:zətər] n. 1. уклáднік -а *m.*, укладáльнік (*грашóвага ўклáду*), уклáдніца *f.*

**depository** [dɪˈpɑ:zətɔ:ri] n., pl. **-ries** склад -у *m.*, схóвішча -а *n.*

**depot** [ˈdi:poʊ] n. 1. склад -у *m.*, дэпó *n.*, *indecl.* 2. дэпó *n.*, *indecl.*, чыгу́начны *абó* аўтóбусны парк

**deprave** [dɪˈpreɪv] v.t. 1. разбэ́шчваць. 2. Obsol. гáньбіць, зьнеслаўляць (*дóбрае ймя*)

**depraved** [dɪˈpreɪvd] adj. марáльна сапсу́ты; разбэ́шчаны, распу́сны

**depravity** [dɪˈprævəti] n., pl. **-ties** 1. марáльная сапсу́тасьць, разбэ́шчанасьць, распу́снасьць, распу́ста *f.* 2. злы́я немарáльныя ўчы́нкі

**deprecate** [ˈdeprəkeɪt] v. асуджáць; вóстра выступáць супрóць; пратэставáць супрóць *кагó-чагó*

**depreciate** [dɪˈpri:ʃieɪt] v.t. 1. зьмяншáць, зьніжáць (*вáртасьць абó цану́*). 2. абясцэ́ньваць, гаварыць пагáрдліва, без павáгі, прымяншáць (*знáчаньне*)

**depreciation** [dɪˌpri:ʃiˈeɪʃən] n. паніжэ́ньне, зьмяншэ́ньне (*вáртасьці*)

**depredation** [ˌdeprəˈdeɪʃən] n. 1. разбó|й -ю *m.*, рабу́н|ак -ку *m.* 2. спусташэ́ньне *n.*, шкóда *f.*

**depress** [dɪˈpres] v.t. 1. гнéсьці, прыгнятáць. 2. прыбівáць (*марáльна*); засмучáць. 3. націскáць, прыцíскáць. 4. зьніжáць (*цану́*). 5. аслабляць

**depressant** [dɪˈpresənt] – n. 1. супакаяльнае *n.* (лек). 2. стры́мваньне *n.*: ***appetite depressant*** срóдак для стры́мваньня апэты́ту
– adj. супакаяльны, стры́мвальны

**depressed** [dɪˈprest] adj. 1. су́мны; змрóчны, прыгнéчаны (*су́мам, гóрам*). 2. прыцíснуты; зьнíжаны. 3. крáнуты эканамíчнай дэпрэ́сіяй: ***depressed area*** раён, дзе шмат беспрацóўных і бéдных

**depression** [dɪˈpreʃən] n. 1. прыгнéчанасьць, зьнéмарашчаньне *n.*, маркóта *f.* 2. зьніжэ́ньне *n.* (*цíску*) 3. Economics застó|й -ю *m.*, дэпрэ́сія *f.* 4. западзíна *f.*, лог -у *m.*, лагчы́на *f.* 5. Meteor. зóна нíзкага атмасфэ́рнага цíску

**deprivation** [ˌdeprɪˈveɪʃən] n. 1. пазбаўлéньне *n.*: ***a deprivation of civil rights*** пазбаўлéньне правóў асóбы. 2. стрáта *f.*; нягóды *pl.*, матэрыяльная нястáча: ***to suffer great deprivation*** цярпéць вялíкую нястáчу

**deprive** [dɪˈpraɪv] v.t. 1. пазбаўляць. 2. адбірáць: ***to deprive of one's human rights*** адбірáць чалавéчыя правы́

**depth** [depθ] n. глыбіня́, глыб *f.*: ***the depth of the river*** глыбіня́ рэ́чкі; ***at a depth of 5 feet*** на глыбінí пяцí фу́таў; ***the depth of a forest*** глыб лéсу; ***depth of thought*** глыбіня́ ду́мкі
• ***in depth*** грунтóўна: ***to study in depth*** грунтóўна вывучáць

**depthless** [ˈdepθləs] adj. 1. плы́ткі. 2. павярхóўны. 3. бяздóнны, непамéрна глыбóкі: ***the depthless ocean*** бяздóнны акіян

**deputation** [ˌdepjəˈteɪʃən] n. дэлегáцыя, дэпутáцыя *f.*

**depute** [dɪˈpju:t] v.t. 1. прызначáць сваíм намéснікам. 2. дэлегавáць, даручáць

**deputy** [ˈdepjəti] n., pl. **-ies** 1. намéснік, застýпнік -а *m.* 2. дэлегáт, дэпутáт -а *m.*, дэпутáтка *f.*

**derail** [di:ˈreɪl] – v.t. 1. пускáць пад адхóн. 2. Figur. выбівáць з каляíны – v.i. сыхóдзіць з рэ́ек (*пра цягнíк*)

**derailment** [di:ˈreɪlmənt] n. крушэ́ньне *n.* (*цягнікá*), сход з рэ́ек

**derange** [dɪˈreɪndʒ] v.t. 1. разлáджваць, раскíдваць (*пля́ны*), парушáць парáдак. 2. давóдзіць да вар'я́цтва

**deranged** [dɪˈreɪndʒd] adj. 1. бязлáдны, перабльі́таны. 2. ненармáльны, звар'яцéлы

**derby** [ˈdɜ:rbi] n., pl. **-bies** 1. спабóрніцтва, спадýжніцтва, гóнкі: ***a fishing derby*** рыбáцкае спадýжніцтва. 2. а) дэ́рбі. б) наагýл скáчкі на кóнях. 3. кацялǀóк -кá *m.* (*капялю́ш*)

• ***Derby*** парцаля́на, выраблéная ў Дэ́рбі

**derelict** [ˈderəlɪkt] – adj. 1. кінуты, пакíнуты: ***a derelict ship*** закíнуты карабéль. 2. які́ занядбóўвае свае́ абавя́зкі; нядбáлы, нядбáйны

– n. 1. усíмі пакíнуты чалавéк. 2. сухазéм'е, утвóранае ў вы́ніку адступлéньня мóра ці ракí

**dereliction** [ˌderəˈlɪkʃən] n. 1. нядбáйства *n.*, недагля́д -у *m.* 2. пакідáньне без увáгі, дóгляду. 3. адступлéньне мóра ад бéрагу; пакíнутая вадóю паласá

**deride** [ˈdɪraɪd] v.t. высьмéйваць; абсьмéйваць; насьміхáцца з *кагó*

**derision** [dɪˈrɪʒən] n. 1. высьмéйваньне *n.* 2. пасьмéшышча *n.*: ***to be a derision to all*** быць пасьмéшышчам для ўсíх

**derisive** [dɪˈraɪsɪv] or **derisory** [dɪˈraɪsəri] adj. 1. насьмéшлівы. 2. сьмéху вáрты

**derivation** [ˌderɪˈveɪʃən] n. 1. пахóджаньне *n.* 2. крыніца *f.*; пачáтǀак -ку *m.* 3. дэрывáцыя *f.* (*утварэ́ньне нóвых слóваў ад слóва-аснóвы*). 4. этымалёгія слóва

**derivative** [dɪˈrɪvətɪv] – adj. 1. Ling. вытвóрны (*слóва*). 2. Math. вытвóрны (*фýнкцыя*). 3. неарыгінáльны

– n. вытвóрнае ад агýльнага, дэрывáт -у *m.* (*слóва, хімíчнае рэ́чыва*)

**derive** [dɪˈraɪv] v.t. 1. атры́мваць; здабывáць; чэ́рпаць: ***to derive pleasure from*** атрымáць прыéмнасьць ад. 2. вывóдзіць з *чагó*, вызначáць. 3. пахóдзіць, прасóчваць пахóджаньне ці пачáткі: ***words derived from Latin*** слóвы лацíнскага пахóджаньня. 4. рабíць высно́ву шля́хам дэдýкцыі

**derm** [dɜ:rm] or **derma** [ ˈdɜ:rmə] n. скýра *f.*

**dermal** [ˈdɜ:rməl] adj. скýрны, наскýрны

**dermatitis** [ˌdɜ:rməˈtaɪtəs] n. запалéньне скýры, дэрматы́т -у *m.*

**dermatologist** [ˌdɜ:rməˈtɑ:lədʒɪst] n. дэрматóляг -а *m.*

**dermatology** [ˌdɜ:rməˈtɑ:lədʒi] n. дэрматалёгія *f.*

**derogate** [ˈderəgeɪt] v. 1. (from) памяншáць, зьмяншáць, аднімáць (*правы́, ўлáду*): ***to derogate from his authority*** памéншыць ягó ўлáду. 2. рабíцца гóршым, апускáцца марáльна

**derogatory** [dɪˈrɑ:gətɔ:ri] adj. 1. прыніжáльны, зьневажáльны; непрыхíльны: ***derogatory remark*** зьневажáльная заўвáга. 2. які́ памяншáе вáртасьць

**derrick** [ˈderɪk] n. 1. пад'ёмны кран -а *m.* 2. буравáя вы́шка *f.*

**derringer** [ˈderɪŋdʒər] n. дэ́рынджэр -а *m.* (*пісталéт*)

**desalinate** [ˌdi:ˈsælɪneɪt] v.t. рабíць прэ́сным, аднімáць соль

**descant** [dɪsˈkænt] v. 1. расьпявáць мэлёдыю на галасы́. 2. дóўга раскáзваць, расьця́гваць (*гýтарку*)

**descant** [ˈdeskænt] n. 1. а) мэлёдыя, раскла́дзеная на галасы́. б) ды́скант (*гóлас*). 2. мэляды́чная пéсьня. 3. дóўгі рóспавед

**descend** [dɪˈsend] v.i. 1. зыхо́дзіць, спушча́цца, спуска́цца: ***He descended in a parachute*** Ён спусьці́ўся на парашу́це. 2. напада́ць, наско́кваць, накіда́цца. 3. перадава́цца ў спа́дчыне. 4. пахо́дзіць. 5. зьніжа́цца, апуска́цца (*да ні́зкага ўчы́нку*)

**descendant** [dɪˈsendənt] n. нашча́д|ак -ка *m. & f.*

**descent** [dɪˈsent] n. 1. зыхо́джаньне *n.*, зыхо́д, спуск -у *m.* 2. схон, схіл -у *m.*: ***a steep descent*** стро́мкі схон, стро́ма *f.* 3. перадава́ньне ў спа́дчыне. 4. пахо́джаньне *n.*, спа́дчыннасьць *f.*: ***of Belarusian descent*** белару́скага пахо́джаньня. 5. зьніжэ́ньне *n.*, заняпа́д -у, упа́д|ак -ку *m.* 6. рапто́ўны напа́д, налёт -у *m.*

**describe** [dɪˈskraɪb] v.t. 1. апі́сваць, падрабя́зна раска́зваць пра *каго́-што.* 2. акрэ́сьліваць, апі́сваць. 3. характарызава́ць

**described** [dɪˈskraɪbd] adj. апіса́ны, ахарактарызава́ны

**description** [dɪˈskrɪpʃən] n. 1. апіса́ньне, прадстаўле́ньне *n.*: ***beyond description*** неапіса́льны. 2. гату́н|ак -ку *m.*, тып -у *m.*: ***of the worst description*** найго́ршага гату́нку

**descriptive** [dɪˈskrɪptɪv] adj. 1. апіса́льны; во́бразны. 2. Gram. апіса́льны: ***a descriptive adjective*** апіса́льны прыме́тнік

**descry** [dɪˈskraɪ] v.t. **-scried, -scrying** заўважа́ць, згле́джваць, угле́джваць: ***to descry a way out of one's troubles*** знайсьці́ вы́йсьце з сваі́х кло́патаў

**desecrate** [ˈdesɪkreɪt] v.t. зьнеслаўля́ць, зьневажа́ць, прафанава́ць

**desecration** [ˌdesɪˈkreɪʃən] n. прафана́цыя *f.*, зьнеслаўле́ньне *n.*, зьнява́га *f.*

**desert I** [ˈdezərt] – n. пусты́ня, пустэ́льня *f.*, незасе́лены абша́р
– adj. 1. сухі́, пусты́нны, пустэ́льны; неўрадлі́вы. 2. незасе́лены, бязьлю́дны: ***a desert island*** бязьлю́дны абто́к

**desert II** [dɪˈzɜːrt] v. 1. пакіда́ць. 2. дэзэртава́ць (*з во́йска*)

**desert III** [dɪˈzɜːrt] n. usually **deserts** заслу́га *f.*, заслу́жанае *n.*: ***He got his deserts*** Ён атрыма́ў па заслу́гах

**deserter** [dɪˈzɜːrtər] n. уцяка́ч уцекача́ *m.*; уцяка́чка *f.* 2. дэзэртэ́р -а *m.*

**desertion** [dɪˈzɜːrʃən] n. 1. пакіда́ньне, занядба́ньне *n.* 2. ухіле́ньне ад абавя́зку. 3. дэзэртэ́рства *n.*

**deserve** [dɪˈzɜːrv] v. заслуго́ўваць, быць ва́ртым *чаго́*: ***He deserves it*** а) Ён гэ́тага заслуго́ўвае. б) Так яму́ й трэ́ба

**deserved** [dɪˈzɜːrvd] adj. заслу́жаны, заро́блены; ва́рты

**deservedly** [dɪˈzɜːrvɪdli] adv. заслу́жана, слу́шна, пра́вільна

**deserving** [dɪˈzɜːrvɪŋ] adj. які́ заслуго́ўвае; ва́рты, дасто́йны

**desiccate** [ˈdesɪkeɪt] v. 1. со́хнуць, высыха́ць. 2. сушы́ць, высу́шваць

**desiccator** [ˈdesɪkeɪtər] n. сушы́лка *f.*, сушы́льнік -а *m.*

**desiderate** [dɪˈzɪdəreɪt] v.t. пра́гнуць, хаце́ць дасягну́ць, жада́ць

**desiderative** [dɪˈzɪdəreɪtɪv] adj. які́ выка́звае жада́ньне

**design** [dɪˈzaɪn] – n. 1. на́кід -у *m.*, красьлю́н|ак -ка, чарц|ёж -ажа́, рысу́н|ак -ку, пля́н -у *m.*; узо́р -у *m.*: ***Belarusian embroidery design*** белару́скі ўзо́р для вышыва́ньня. 2. прае́кт -у *m.*, канстру́кцыя, мадэ́ль *f.*, дыза́йн -у *m.* 3. заду́ма *f.*; прае́кт -у *m.* 4. мэ́та *f.*, наме́р -у *m.*: ***by accident or design*** выпадко́ва ці знаро́к
– v.t. 1. крэ́сьліць, праектава́ць, плянава́ць: ***to design a dress*** накрэ́сьліць фасо́н суке́нкі; ***to design a bridge*** праектава́ць мост. 2. абду́мваць, накіда́ць (*фа́булу рама́ну*). 3. прызнача́ць для *чаго́*

**designate** [ˈdezɪgneɪt] – v.t. 1. прызнача́ць (*на паса́ду*). 2. абазнача́ць, пака́зваць на *што.* 3. называ́ць *каго́*: ***to be designated*** быць назва́ным
– adj. [ˈdezɪgnət] прызна́чаны, вы́браны

**designation** [ˌdezɪgˈneɪʃən] n. 1. прызначэ́ньне *n.* (*на паса́ду, пост*). 2. абазначэ́ньне *n.* 3. ты́тул -у *m.*, імя́ *n.*

**designed** [dɪˈzaɪnd] adj. 1. заплянава́ны, спраектава́ны. 2. прызна́чаны

**designedly** [dɪˈzaɪnɪdli] adv. з наме́рам, наўмы́сна, знаро́к

**designer** [dɪˈzaɪnər] n. 1. канстру́ктар -а, чарцёжнік -а, красьля́р -ра́ *m.*. 2. дыза́йнэр -а *m.*: ***fashion designer*** дыза́йнэр мо́днага адзе́ньня. 3. маста́к-дэкара́тар

**desirable** [dɪˈzaɪrəbəl] adj. жада́ны, пажада́ны; прые́мны, до́бры

**desire** [dɪˈzaɪr] – v. 1. жада́ць, хаце́ць; пра́гнуць. 2. патрабава́ць
– n. 1. жада́ньне *n.*; пра́га *f.* 2. прадме́т жада́ньня. 3. пажа́длівасьць *f.* (*у сэксуа́льным сэ́нсе*), жадо́ба *f.*

**desirous** [dɪˈzaɪrəs] adj. які́ жада́е, які́ хо́ча; які́ пра́гне

**desist** [dɪˈzɪst] v.i. спыня́цца, устры́мвацца; адмаўля́цца: ***desist from attempts*** адмо́віцца ад спро́баў

**desk** [desk] – n. 1. пісьмо́вы стол. 2. шко́льная ла́ўка, па́рта *f.* 3. a) Church a) анало́й -я *m.* б) каза́льніца *f.*, амбо́н -у *m.* 4. аддзяле́ньне, сэ́ктар (*устано́вы*): ***information desk*** даве́дачны стол, інфарма́цыя *f.*: ***copy desk*** стол рэда́ктара ў рэда́кцыі газэ́ты
– adj. насто́льны, пісьмо́вы: ***a desk calendar*** насто́льны каляндар́; ***desk set*** пісьмо́выя прыла́ды

**desolate** [ˈdesələt] – adj. 1. запу́шчаны, занядба́ны, закі́нуты; спусто́шаны: ***desolate land*** спусто́шаная зямля́. 2. пакі́нуты, пусты́; нежылы́ (*пра дом*). 3. само́тны, адзіно́кі, усі́мі пакі́нуты. 4. няшча́сны, ва́рты жа́лю. 5. змро́чны; цяжкі́, бязра́дасны (*жыцьцё*)
– v.i. 1. спусташа́ць; разбура́ць. 2. абязьлю́джваць. 3. засмуча́ць, пакіда́ць у адзіно́це, рабі́ць няшча́сным

**desolation** [ˌdesəlˈeɪʃən] n. 1. спусто́шанасьць, запу́шчанасьць, занядба́насьць *f.* 2. пусто́та *f.*; адзіно́та *f.*

**despair** [dɪˈsper] – n. адча́й -ю *m.*, кра́йняя безнадзе́йнасьць, ро́спач *f.*
– v.i. тра́ціць надзе́ю, ня мець надзе́і: ***The doctors despaired of saving the sick man's life*** Ле́кары стра́цілі надзе́ю, што ўрату́юць хво́рага

**desperate** [ˈdespərət] adj. 1. ро́спачны, адча́йны, по́ўны адча́ю: ***a desperate robber*** адча́йны рабаўні́к; ***a desperate act*** ро́спачны ўчы́нак. 2. ве́льмі пава́жны або́ небясьпе́чны (*пра хваро́бу*). 3. безнадзе́йны; кра́йні, кра́йне благі́ (*пра абста́віны*): ***desperate remedy*** кра́йнія ме́ры

**desparation** [ˌdespəˈreɪʃən] n. адча́й -ю *m.*, ро́спач *f.*

**despicable** [dɪˈspɪkəbəl] adj. агі́дны, нікчэ́мны, по́длы; грэ́баваны

**despise** [dɪˈspaɪz] v.t. пагарджа́ць, грэ́баваць; ненаві́дзець

**despite** [dɪˈspaɪt] – prep. нягле́дзячы на, насу́перак, насупо́р
– n. 1. абра́за, крыў́да *f.* 2. Archaic пага́рда *f.*

**despoil** [dɪˈspɔɪl] v.t. рабава́ць; гра́біць; спусташа́ць

**despond** [dɪˈspɑ:nd] v. па́даць ду́хам, тра́ціць надзе́ю

**despondency** [dɪˈspɑ:ndənsi] n. упа́дак ду́ху, адча́й -ю *m.*, прыгне́чанасьць *n.*

**despondent** [dɪˈspɑ:ndənt] adj. прыгне́чаны, абезнадзе́ены

**despot** [ˈdespɑ:t] n. 1. тыра́н, дэ́спат -а *m.*; прыгнята́льнік -а *m.* 2. лю́ты мана́рх, улада́р зь неабмежава́най ула́дай. 3. (*у грэ́цкай царкве́*) япі́скап, патрыя́рх -а *m.*

**despotic** [dɪˈspɑ:tɪk] adj. дэспаты́чны; зь неабмежава́най ула́дай; самаўла́дны (*хара́ктар*)

**dessert** [dɪˈzɜ:rt] n. дэсэ́рт -у *m.*: **dessert spoon** дэсэ́ртная лы́жка

**destabilize** [ˌdi:ˈsteɪbəlaɪz] v.t. паруша́ць раўнава́гу, дэстабілізава́ць

**destination** [ˌdestɪˈneɪʃən] n. 1. ме́сца прызначэ́ньня. 2. прызначэ́ньне *n.*, кіру́нак -ку *m.*, канчатко́вая мэ́та

**destiny** [ˈdestəni] n., pl. **-nies** кон, лёс -у *m.*, до́ля *f.*

**destitute** [ˈdestɪtu:t] – adj. 1. убо́гі, бе́дны, які́ жыве́ ў нястачы. 2. Obsol. пакі́нуты ўсі́мі

– n. чалавéк, што жывé ў галéчы; бядняк беднякá *m.*; бяздóмн|ы -ага *m.*, бяздóмная *f.*, беспрытýльн|ы -ага *m.*

**destitution** [ˌdestɪˈtu:ʃən] n. 1. нястáча *f.* 2. бéднасьць, галéча *f.*

**destroy** [dɪˈstrɔɪ] v.t. 1. зьнішчáць; разбурáць, раскíдваць: ***to destroy all hope*** разьбíць усé спадзявáньні. 2. касавáць: ***The exceptions do not destroy the authority of the rule*** Вы́няткі не касýюць слýшнасьці прáвіла. 3. забівáць: ***The horse had to be destroyed*** Канá трэ́ба былó забíць

**destroyer** [dɪˈstrɔɪər] n. 1. зьнішчáльнік -а *m.* 2. мінанóс|ец, эсьмíн|ец -ца *m.*, баявы́ самалёт

**destroying** [dɪˈstrɔɪŋ] adj. зьнішчáльны

**destruction** [dɪˈstrʌkʃən] n. 1. зьнішчэ́ньне *n.* 3. руíна, пагíбель, згýба *f.*: ***overconfidence was his destruction*** празьмéрная самаўпэ́ўненасьць загубíла ягó. 2. разбурэ́ньне, бурэ́ньне *n.* (*буды́нка*)

**destructive** [dɪˈstrʌktɪv] adj. 1. зьнішчáльны, разбурáльны; дэструкты́ўны. 2. шкóдны, дэструкты́ўны: ***destructive criticism*** дэструкты́ўная кры́тыка

**destructive distillation,** Chem. сухáя перагóнка

**desultory** [ˈdesəltɔ:ri] adj. бязлáдны, няскла́дны, нязьвя́зны; бессыстэ́мны, уры́ўкавы: ***desultory conversation*** бязлáдная гýтарка; ***desultory reading*** бессыстэ́мнае чытáньне

**detach** [dɪˈtætʃ] v.t. 1. адлучáць, адчэ́пліваць; адвя́зваць, аддзяля́ць. 2. пасылáць (*на спэцыя́льнае задáньне*)

**detachable** [dɪˈtætʃəbəl] adj. адрыўны́; адразны́; якí здымáецца, аднімáецца

**detached** [dɪˈtætʃt] adj. 1. асóбны: ***a detached house*** асабня́к -á *m.* 2. адлýчаны, незалéжны, бесстарóнны, аб'екты́ўны; непрадузя́ты. 3. абыя́кавы

**detachment** [dɪˈtætʃmənt] n. 1. адлучэ́ньне, разлучэ́ньне, аддзялéньне *n.* 2. адлýчанасьць, адчýжанасьць; абыя́кавасьць *f.* 3. Milit. грýпа жаўнéраў абó караблёў, тáнкаў, паслáная на спэцыя́льнае задáньне. 4. бесстарóннасьць, аб'екты́ўнасьць *f.*

**detail** [ˈdi:teɪl] – n. 1. падрабя́знасьць, дэтáль, чáстка *f.*: ***to go into details*** а) паглыбля́цца ў падрабя́знасьці. б) грунтóўна разглядáць. 2. падрабя́зная справаздáча; дэталізáцыя *f.*: ***in detail*** падрабя́зна. 3. Milit. нарад -у *m.*, камáнда *f.*

– v.t. 1. падрабя́зна раскáзваць, увахóдзіць у падрабя́знасьці. 2. Milit. пасылáць, прызначáць у нарáд, камáнду

**detailed** [ˈdi:teɪld] adj. 1. падрабя́зны. 2. даклáдны

**detain** [dɪˈteɪn] v.t. 1. затры́мваць: ***I was detained*** Мянé затрымáлі. 2. трымáць пад вáртай

**detect** [dɪˈtekt] v.t. 1. выкрывáць. 2. выяўля́ць; адкрывáць; адчувáць, чýць, заўважáць: ***to detect odor*** адчýць пах

**detective** [dɪˈtektɪv] n. шпік -á *m.*, áгент вы́шуку; тáйнік -а *m.*, дэтэкты́|ў -ва *m. & f.*

– adj. дэтэкты́ўны: ***a detective novel*** дэтэкты́ўны рамáн

**detection** [dɪˈtekʃən] n. 1. раскрыцьцё, выкрыцьцё *n.* 2. рóсшук -у *m.*

**detente** [ deɪˈtɑ:nt] n. адпрýжаньне (*паліты́чнае*)

**detention** [dɪˈtenʃən] n. 1. затрымáньне *n.* 2. пакідáньне вýчня пасьля́ лéкцыяў. 3. прымусóвая затры́мка, трымáньне пад нагля́дам

**deter** [dɪˈtɜ:r] v.t. **-terred, -terring** 1. паўстры́мваць; адпýжваць. 2. адгавóрваць. 3. перашкаджáць

**detergent** [dɪˈtɜ:rdʒənt] – adj. ачышчáльны

– n. дэтэргент -у *m.*, прáльны парашóк, прáльны сыпýн

**deteriorate** [dɪˈtɪriəreɪt] v. 1. псавáць, пагаршáць. 2. псавáцца, занепадáць; трáціць вáртасьць *абó* цанý

**deterioration** [dɪˌtɪriəˈreɪʃən] n. пагóршаньне, псуцьцё, псавáньне *n.*

**determinant** [dɪˈtɜ:rmɪnənt] – n. вызначáльны, вырашáльны фáктар
– adj. вырашáльны, рашáючы; галóўны

**determinate** [dɪˈtɜ:rmɪnət] adj. 1. вы́значаны, акрэ́сьлены; азнáчаны. 2. усталявáны: ***a determinate rule*** усталявáнае прáвіла. 3. павáжны, станаўкí, рашу́чы

**determinately** [dɪˈtɜ:rmɪnətli] adv. непахíсна, навáжана, рашу́ча

**determination** [dɪˌtɜ:rmɪˈneɪʃən] n. 1. вырашэ́ньне, усталявáньне *n.* (*мéжаў, цаны́*). 2. высновa *f.*, вы́вад -у *m.* 3. пастанóва *f.*, заключэ́ньне *n.* 4. рашу́часьць, станóўкасьць *f.*

**determinative** [dɪˈtɜ:rmɪnətɪv] – adj. вызначáльны, вырашáльны
– n. вырашáльны фáктар

**determine** [dɪˈtɜ:rmɪn] v. 1. мóцна навáжвацца, надýмвацца, пастанаўля́ць. 2. даклáдна вызначáць. 3. вырашáць, акрэ́сьліваць, устанаўля́ць, прадвызначáць. 4. накірóўваць, схіля́ць да *чагó*. 5. закáнчваць *што*, скóнчвацца (*тэ́рмін*). 7. азначáць, азначáцца

**determined** [dɪˈtɜ:rmɪnd] adj. 1. непахíсны; навáжаны, станаўкí (*чалавéк*): ***determined character*** цьвёрды харáктар

**deterrent** [dɪˈterənt] – adj. стры́мвальны; які адпу́жвае ад *чагó*
– n. тóе, што стры́мвае; тóе, што адпу́жвае

**detest** [dɪˈtest] v.t. ненавíдзець, чуць агíду да *кагó*; гáдзіцца; грэ́баваць

**detestable** [dɪˈtestəbəl] adj. ненавíсны; агíдны; гíдкі

**dethrone** [dɪˈθroʊn] v.t. скідáць з трóну; пазбаўля́ць улáды

**detonate** [ˈdetəneɪt] v. падрывáць, узрывáць

**detour** [ˈdi:tʊr] – n. аб'éзд, абхóд -у *m.*
– v. 1. рабíць аб'éзд, абыхóдзіць. 2. скірóўваць на аб'éзд

**detract** [dɪˈtrækt] v. 1. зьмяншáць (*красу́, вáртасьць*). 2. ганьбавáць, гáніць; няслáвіць

**detractive** [dɪˈtræktɪv] adj. 1. які́ зьмяншáе (*красу́, вáртасьць*). 2. які́ прымяншáе, зьніжáе (*вáртасьць*), ганьбу́е *абó* паклёпнічае

**detrain** [ˌdi:ˈtreɪn] v. 1. вы́йсьці, вы́садзіцца зь цягнікá. 2. разгружáць вагóны

**detriment** [ˈdetrɪmənt] n. пашкóджаньне, пакалéчаньне *n.*; шкóда *f.*; стрáта *f.*: ***without detriment to*** бяз шкóды, стрáты для *чагó*

**detrimental** [ˌdetrɪˈmentəl] adj. шкóдны; стрáтны

**deuce I** [du:s] n. 1. двóйка *f.*, два ачкí (*у кáртах ці дамінó*). 2. рóўны лік (*у тэ́нісе*)

**deuce II** [du:s] n., Informal (*вы́крык незадавóленьня*) — што за лíха? што за чорт?: ***What the deuce do you mean?*** Што за лíха Вы мáеце на ўвáзе?

**devaluate** [ˌdi:ˈvæljueɪt] v.t. 1. зьмяншáць вáртасьць. 2. паніжáць вáртасьць (*грашóвае адзíнкі*)

**devaluation** [ˌdi:ˌvæljuˈeɪʃən] n. дэвальвáцыя *f.*

**devastate** [ˈdevəsteɪt] v. спусташáць; зьнішчáць; разбурáць; руйнавáць

**devastated** [ˈdevəsteɪtɪd] adj. спустóшаны, разбу́раны, зруйнавáны

**devastating** [ˈdevəsteɪtɪŋ] adj. спусташáльны, разбурáльны

**devastation** [ˌdevəˈsteɪʃən] n. 1. спустóшанасьць *f.*, зьнішчэ́ньне *n.*; руíны *pl.* 2. спусташэ́ньне, нішчэ́ньне, руйнавáньне *n.*

**develop** [dɪˈveləp] v. 1. разьвівáць. 2. распрацóўваць (*плян*), разбудóўваць. 3. праяўля́ць (*нэгаты́ў*); выяўля́ць. 4. разьвівáцца

**developed** [dɪˈveləpt] adj. 1. разьвíты. 2. разбудавáны. 3. Phot. прая́ўлены

**developer** [dɪˈveləpər] n. 1. забудóўвальнік, забудóўнік, будаўнíк-прадпрымáльнік -а *m.*; распрацóўнік -а *m.* 2. Phot. праяўля́льнік -у *m.*

**development** [dɪˈveləpmənt] n. 1. разьвíцьцё *n.* 2. працэ́с разьвíцьця́; рост -у *m.* 3. разбудóва *f.* 4. а) пасёлак -ка

*m.* б) гру́па новазбудава́ных дамо́ў 5. падзе́я, вы́нік: ***the latest developments in world affairs*** апо́шнія падзе́і ў сьве́це. 5. Phot. праяўле́ньне *n.*

**deviant** [ˈdi:viənt] n. адхіле́н|ец, збачэ́н|ец -ца *m.*: ***sexual deviant*** сэксуа́льны збачэ́нец

**deviate** [ˈdi:vieɪt] v. 1. адыхо́дзіць, адхіля́цца (*ад кіру́нку, пра́ўды*). 2. адступа́цца (*ад пля́ну, пра́віла*). 3. заваро́чваць (*з даро́гі*); адхіля́ць

**deviation** [ˌdi:viˈeɪʃən] n. 1. адхіле́ньне (*ад кіру́нку, пра́віла*), збачэ́ньне. 2. адступле́ньне *n.* (*ад пля́ну, пра́ўды*)

**device** [dɪˈvaɪs] n. 1. плян, спо́саб -у *m.*, шту́чка *f.* 2. апара́т -у *m.*; прыстасава́ньне, сна́дзіва *n.*, прыла́да *f.* 3. эмбле́ма *f.*

**devil** [ˈdevəl] – n. 1. д'я́б|ал -ла *m.*; чорт чарта́, нячы́сцік -а, злы дух, нячы́стая сі́ла, лі́ха *n.* 2. злы, лю́ты чалаве́к

– v.t. 1. Informal дакуча́ць, дражні́цца. 2. зьдзе́кавацца з *каго́.* 3. во́стра прыпраўля́ць: ***to devil ham*** прыпраўля́ць кумпя́к во́стрымі прыпра́вамі

• ***a lucky devil*** шчасьлі́вец

• ***devil of a fellow*** ве́льмі спры́тны, энэргі́чны або́ адча́йны чалаве́к

• ***go to the devil*** руйнава́цца, гі́нуць, ісьці́ на пагі́бель

• ***poor devil*** нябо́га, небара́ка

**devilish** [ˈdevəlɪʃ] – adj. 1. д'я́бальскі, чарто́ўскі; сатані́чны, пяке́льны. 2. гарэ́зьлівы, гульлі́вы; хітрава́ты

– adv. пяке́льна, страшэ́нна; як чо́рт

**devious** [ˈdi:viəs] adj. вако́льны, кружны́ (*даро́га*); абхо́дны, пакруча́сты. 2. хі́тры, няшчы́ры; несумле́нны

**devise** [dɪˈvaɪz] – v.i. 1. прыду́мваць, плянава́ць. 2. вынахо́дзіць. 3. Law адпі́сваць маёмасьць у спа́дчыну

– n. 1. запіса́ная спа́дчына. 2. тэстамэ́нт -у *m.*

**devisor** [dɪˈvaɪzər] n. асо́ба, яка́я адпі́свае тэстамэ́нтам маёмасьць

**devoid** [dɪˈvɔɪd] adj. пазба́ўлены, зусі́м без: ***a well devoid of water*** кало́дзеж без вады́; ***devoid of fear*** зусі́м бяз стра́ху

**devolution** [ˌdi:vəˈlu:ʃən] n. 1. перада́ча, дэлега́цыя ўла́ды. 2. перахо́д маёмасьці ў спа́дчыне. 3. Biol. выраджэ́ньне *n.*, дэгенэра́цыя *f.*

**devolve** [dɪˈvɑ:lv] v.t. 1. перадава́ць. 2. перадава́цца: ***The responsibility devolved on me*** Адка́знасьць звалі́лася на мяне́

**devote** [dɪˈvoʊt] v.1. а) прысьвяча́ць сябе́ (*Бо́гу, спра́ве*), прысьвяча́ц|ь (-ца). б) ***devote oneself*** аддава́цца, прысьвяча́цца: ***The museum devotes one wing to modern art*** Музэ́й адно́ крыло́ прысьвяча́е суча́снаму маста́цтву. 2. аддава́ць; надава́ць: ***to devote much time to studies*** аддава́ць шмат ча́су наву́цы

**devoted** [dɪˈvoʊtəd] adj. 1. адда́ны, ве́рны, ляя́льны: ***a devoted mother*** адда́ная ма́ці; ***He is devoted to sports*** Ён адда́ны спо́рту. 2. прысьве́чаны, прызна́чаны

**devotee** [ˌdevəˈti:] n. 1. энтузія́ст сва́е спра́вы; прыхі́льнік -а *m.*, адда́ны пасьлядо́ўнік. 2. сьвято́ш|а -ы *m. & f.*

**devotion** [dɪˈvoʊʃən] n. 1. адда́насьць, прывя́занасьць *f.* 2. прысьвячэ́ньне, аддава́ньне. 3. набо́жнасьць *f.*

• ***devotions*** , pl. набажэ́нства *n.*; мале́ньне *n.*

**devour** [dɪˈvaʊr] v. 1. пра́гна е́сьці; зьяда́ць; жэ́рці (*пра жывёліну*), пажыра́ць. 2. зьнішча́ць (*пра аго́нь, пажа́р*). 3. глыта́ць, праглына́ць: ***to devour novel after novel*** паглына́ць рама́н за рама́нам; ***He devoured every word*** Ён пра́гна лаві́ў ко́жнае сло́ва

**devout** [dɪˈvaʊt] adj. 1. набо́жны, пабо́жны, рэлігі́йны. 2. по́ўны глыбо́кай пашаны або́ пава́гі. 3. шчы́ры, адда́ны: ***devout thanks*** шчы́рая падзя́ка: ***a devout follower*** адда́ны пасьлядо́ўнік

**dew** [du:] – n. 1. раса́ *f.*; расі́на, расі́нка *f.* 2. сьляза́ *f.*; кро́пля по́ту

– v. расі́ць; зраша́ць, абраша́ць; змо́чваць расо́ю *ці* як расо́ю

**dewdrop** [ˈdu:drɑ:p] n. расíна, расíнка *f.*; крóпля расы́

**dewlap** [ˈdu:læp] n. 1. падгрýд|ак -ка *m.* 2. Figur. другí падбарóдак

**dewy** [ˈdu:i] adj. 1. рóсны, расíсты, пакры́ты расóю. 2. як расá асьвяжáльны; бліскýчы

**dewy-eyed** [ˌdu:iˈaɪd] adj. 1. сэнтымэнтáльны. 2. нявíнны, прастадýшны

**dexter** [ˈdekstər] adj. прáвы, з прáвага бóку

**dexterity** [dekˈsterəti] n. 1. спрáўнасьць, спры́тнасьць, паварóтлівасьць *f.* 2. здóльнасьць *f.*

**dexterous** [ˈdekstərəs] adj. спрáўны, спры́тны

**diabetes** [ˌdaɪəˈbi:təs] n. дыябэ́т -у *m.*, цукрóвая хварóба

**diabolic** [ˌdaɪəˈbɑ:lɪk] or **diabolical** adj. 1. д'я́бальскі, сатанíчны. 2. чартóўскі, злы як чорт

**diacritical** [ˌdaɪəˈkrɪtɪkəl] – adj. дыякрыты́чны

– n. дыякрыты́чны знак

**diadem** [daɪədem] n. дыядэ́ма *f.* а) карóна *f.* б) ýлада манáрха

**diagnose** [ˌdaɪəgˈnoʊs] – v.t. вызначáць хварóбу, дыягназавáць

– v.i. стáвіць дыя́гназ

**diagnosis** [ˌdaɪəgˈnoʊsɪs] n., pl. **-ses** 1. дыя́гназ -у *m.* (*хварóбы*). 2. даклáднае дасьлéдаваньне (*фáктаў*). 3. высьнóва, зрóбленая на падстáве дасьлéдаваньня

**diagnostic** [ˌdaɪəgˈnɑ:stɪk] – adj. дыягнасты́чны

– n. 1. сымптóм -у *m.* 2. usually pl. дыягнóстыка (*галінá мэдыцы́ны*)

**diagonal** [daɪˈægənəl] – n. дыяганáль *f.*

– adj. дыяганáльны

**diagonally** [daɪˈægənəli] adv. наўскóс, наўскася́к, па дыяганáлі

**diagram** [ˈdaɪəgræm] n. дыягрáма *f.*, грáфік -у *m.*

**dial** [ˈdaɪəl] – n. цыфэрбля́т -а *m.* (*гадзíньніка*), шкалá *f.* (*рáдыё*)

– v.t. а) настаўля́ць рáдыё. б) набірáць: ***to dial a number*** набрáць нýмар (*тэлефóна*)

• ***sun dial*** сóнечны гадзíньнік

**dialect** [ˈdaɪəlekt] n. гавóрка *f.*, дыялéкт -у *m.*

**dialectal** [ˈdaɪəlektəl] adj. дыялéктны (*вы́раз*)

**dialectical** [ˌdaɪəˈlektɪkəl] adj. дыялекты́чны: ***dialectical materialism*** дыялекты́чны матэрыялíзм

**dialectics** [ˈdaɪəlektɪks] n. дыялéктыка *f.*

**dialectology** [ˌdaɪəlekˈtɑ:lədʒi] n. дыялекталёгія *f.*

**dialog** [ˈdaɪəlɔ:g] n. гýтарка *f.*, дыялёг -у *m.*

**diameter** [daɪˈæmətər] n. дыя́мэт|ар -ру *m.*

**diametric** [ˌdaɪəˈmetrɪk] or **diametrical** [ˌdaɪəˈmetrɪkəl] adj. 1. дыямэтрáльны. 2. даклáдна супрацьлéглы

**diamond** [ˈdaɪmənd] n. 1. дыя́мант -а *m.*, брылья́нт -а *m.* 2. Geom. ромб -а *m.* 3. звóнка, бýбна *f.* (*у кáртах*). 4. Sport пляцóўка для бэйсбóлу ***diamond cut diamond*** найшлá касá на кáмень

• ***diamonds*** бубнóвая масьць (*у кáртах*)

**diaper** [ˈdaɪpər] – n. 1. пóлка *f.* (*матэрыя́л*), пялю́шка *f.* (*дзіця́ці*). 2. узóрнае, узóрыстае палатнó

– v.t. спавíць дзіця́ ў пóлкі

**diaphanous** [daɪˈæfənəs] adj. 1. празры́сты, які́ прасьвéчваецца. 2. далікáтны

**diaphragm** [ˈdaɪəfræm] n. дыяфрáгма, мэмбрáна, перагарóдка *f.*

**diarrhea** [ˌdaɪəˈri:ə] n. разлáд страўніка, развальнéньне *n.*

**diary** [ˈdaɪəri] n., pl. **-ries** дзёньнік -а *m.*

**diaspora** [daɪˈæspərə] n. 1. дыя́спара *f.* 2. расьсялéньне *n.*

**diathermancy** [ˌdaɪəˈθɜ:rmənsi] n., Phys. цеплаправóднасьць *f.*

**diathermanous** [ˌdaɪəˈθɜ:rmənəs] adj., Phys. цеплаправóдны

**diathermic** [ˌdaɪəˈθɜ:rmɪk] adj. 1. Med. дыятэрмíчны. 2. Phys. цеплаправóдны

**diathermy** [ˈdaɪəˌθɜ:rmi] n., pl. **-mies** дыятэрмíя *f.*

**diatonic** [ˌdaɪəˈtɑ:nɪk] adj., Mus. дыятанічны

**dice** [daɪs] – n., pl of **die** 1. косьці, кубікі для гульні *pl. only.* 2. гульня ў косьці
– v.t. 1. рэзаць на малыя кубікі (*моркву, бульбу*). 2. гуляць у косьці
• ***The die is cast*** Жэрабя кінутае (*Выбар зроблены*)

**dichotomy** [daɪˈkɑ:təmi] n. раздвоенасьць *f.*

**dictate** [ˈdɪkteɪt] – v. 1. дыктаваць. 2. загадваць, камандаваць
– n. загад, наказ -у *m.*

**dictation** [dɪkˈteɪʃən] n. 1. дыктоўка *f.*, дыктаваньне *n.* 2. загадваньне *n.*, загад -у *m.*

**dictator** [ˈdɪkteɪtər] n. 1. дыктатар -а *m.* 2. той, хто дыктуе

**dictatorship** [ˈdɪkteɪtərʃɪp] n. дыктатура *f.*

**diction** [ˈdɪkʃən] n. 1. вымаўленьне *n.*, дыкцыя *f.* 2. маўленьне *n.* (*стыль*)

**dictionary** [ˈdɪkʃəneri] n., pl.**-aries** слоўнік -а *m.*

**did** [dɪd] v., *pt. of* **do**

**die I** [daɪ] v.i. 1. паміраць, канаць. 2. канчацца, набліжацца да канца, пераставаць працаваць: ***The engine died*** Рухавік перастаў працаваць. 3. Informal моцна хацець, прагнуць: ***I am dying to see him*** Я прагну яго бачыць. 4. заціхаць (*пра вецер*), сьціхаць; заміраць
• ***die away/down*** а) вянуць, марнець. б) заміраць, заціхаць
• ***die off*** выміраць

**die II** [daɪ] n., pl. **dies** штамп -у *m.*, матрыца *f.*

**die III** [daɪ] n., pl. **dice,** *гл.* **dice**

**diesel** [ˈdi:zəl] – n. дызэлль -я *m.*, рухавік унутранага згараньня
– adj. дызэльны, з дызэлем. а) ***a diesel train*** дызэльны цягнік. б) ***diesel fuel*** дызэльнае паліва
• ***Diesel engine*** or ***Diesel motor*** дызэль-рухавік, дызэль-матор

**diet** [ˈdaɪət] – n. 1. ежа *f.*; харчаваньне *n.* 2. дыета *f.*
– v. быць на дыеце, трымаць дыету, трымаць на дыеце

**dietary** [ˈdaɪəteri] – adj. дыетычны
– n., pl. **-taries** 1. паёк -йка *m.*; дыетная сыстэма

**dietetics** [ˌdaɪəˈtetɪks] n. дыетыка *f.* (*навука*)

**differ** [ˈdɪfər] v. 1. розьніцца, адрозьнівацца. 2. не згаджацца; разыходзіцца (*у паглядах, меркаваньнях*)

**difference** [ˈdɪfrəns] n. 1. розьніца *f.* 2. Math. рознасьць *f.* (*двух лікаў*). 3. нязгода *f.*, разлад -у *m.*; спрэчка, сварка *f.*

**different** [ˈdɪfrənt] adj. розны, адрозны, іншы; не такі, незвычайны, асаблівы: ***This food has a different taste*** Гэтая ежа мае незвычайны смак

**differential** [ˌdɪfəˈrenʃəl] – adj. 1. неаднолькавы, розны, дыфэрэнцыяльны: ***different rates*** дыфэрэнцыяльныя працэнты. 2. Math. дыфэрэнцыяльны: ***differential equation*** дыфэрэнцыяльнае раўнаньне
– n. дыфэрэнцыял -у *m.*

**differentiate** [ˌdɪfəˈrenʃieɪt] v.t. 1. разрозьніваць,, адрозьніваць. 2. заўважаць розьніцу. 3. адрозьнівацца

**difficult** [ˈdɪfɪkəlt] – adj. цяжкі, складаны; непадаўкі: ***difficult problem*** цяжкая праблема
– adv. цяжка: ***difficult to understand*** цяжказразумелы

**difficulty** [ˈdɪfɪkəlti] n., pl. **-ties** 1. цяжкасьць *f.* 2. клопат -у *m* ; замінка, перашкода *f.* 3. pl. цяжкасьці (*матэрыяльныя*). 4. нязгода *f.*: ***to make a difficulty*** рабіць перашкоды; быць неахвочым

**diffidence** [ˈdɪfɪdəns] n. няўпэўненасьць у сабе, сарамлівасьць *f.*

**diffident** [ˈdɪfɪdənt] adj. няўпэўнены ў сабе, няпэўны сябе; сарамлівы

**diffuse** [dɪˈfju:z] – v. 1. пашыраць|ь (-ца), расьсяваць|ь (-ца). 2. Phys. пранікаць (*шляхам дыфузіі*)
– adj. 1. расьсеяны, дыфузны (*сьвятло, туман*). 2. шматслоўны, які шмат

расьця́гвае: ***a diffuse writer*** шматслóўны пісьмéньнік

**diffusion** [dɪˈfju:ʒən] n. 1. распаўсю́джаньне, расьсявáньне, пашырэ́ньне *n.* 2. пранікáньне *n.* 3. Phys. дыфу́зія *f.*

**dig** [dɪg] – v., **dug, digging** 1. капáць. 2. вышу́кваць (*інфармáцыю*), перашу́кваць, перакóпваць. 3. Sl. a) разумéць. б) падабáцца: ***I dig you*** а) Я цябé разумéю. б) Ты мне падабáесься
– n. 1. капáньне *n.* 2. Informal штуршlóк -кá *m.*, удáр -у *m.* 3. зьéдлівая заўвáга, кпíна *f.*
• ***dig in*** замацавáцца
• ***dig into*** цяжка працавáць над *чым*
• ***dig up/out*** 1. а) адкапáць, вы́капаць б) давéдацца, адкры́ць, вы́найсьці

**digest** [daɪˈdʒest] – v.t. 1. перапраўля́ць. 2. разумéць; засвóйваць. 3. клясыфікавáць, скарачáць, рэзюмавáць, рабíць карóткі вы́клад зьмéсту. 4. перанóсіць; цярпéць
– n. [ˈdaɪdʒest] 1. карóткі вы́клад зьмéсту, дáйджэст -у *m.* 2. збор скарачэ́ньняў: ***a digest of great novels*** збор скарóчаных клясы́чных ромáнаў

**digestibility** [daɪˌdʒestəˈbɪləti] n. лёгкастрáўнасьць *f.*

**digestible** [daɪˈdʒestəbəl] adj. лёгкастрáўны

**digestion** [daɪˈdʒestʃən] n. стрававáньне *n.*

**digestive** [daɪˈdʒestɪv] – adj. 1. стрававáльны. 2. якí дапамагáе стрававáньню
– n. срóдак, лек, якí дапамагáе стрававáньню

**digger** [ˈdɪgər] n. 1. землякóп -а *m.* 2. прылáда для капáньня, капáч -á *m.*

**diggings** [ˈdɪgɪŋz] n., pl. 1. капáльня *f.*, археалягíчныя раскóпкі. 2. вы́капні *pl.* 3. Informal жыльлё, жытлó *n.*, кватэ́ра *f.*

**digit** [ˈdɪdʒɪt] n. 1. пáлlец -ьца *m.* (*на руцэ́ ці назé*). 2. адназнáчны лíк (*ад 0 да 9*): ***In 394 the last digit is 4*** У лíку 394 апóшняя лíчба - 4

**digital** [ˈdɪdʒətəl] adj. лíчбавы, дыгітáльны: ***digital clock*** лíчбавы гадзíньнік; ***digital camera*** лíчбавы фотаапарáт

**dignified** [ˈdɪgnɪfaɪd] adj. 1. гóдны, пóўны гóднасьці. 2. вéлічны; вáжны. 3. высакарóдны

**dignify** [ˈdɪgnɪfaɪ] v., **-fied, -fying** надавáць гóднасьці; дадавáць лéпшы вы́гляд

**dignitary** [ˈdɪgnəteri] n., pl. **-taries** санóўнік, дастóйнік -а *m.*

**dignity** [ˈdɪgnəti] n., pl. **-ties** 1. гóднасьць, дастóйнасьць, высакарóднасьць *f.* 2. высóкае станóвішча, высóкі ранг *абó* ты́тул. 3. шляхóтнасьць *f.*

**digress** [daɪˈgres] v.i. адыхóдзіць, адхіля́цца (*ад тэ́мы*)

**digression** [daɪˈgreʃən] n. заварóт; адыхóд, адступлéньне ад тэ́мы

**dike** [daɪk] – n. 1. шту́чны земляны́ нáсып, дáмба *f.* 2. роlў -ву *m.*, канáва *f.* 3. агарóджа зь дзёрну абó кáменю, вал -у *m.* 4. перашкóда *f.*
– v.t. 1. насыпáць дáмбы. 2. мэліяравáць

**dilapidated** [dɪˈlæpɪdeɪtəd] adj. поўразвáлены, трухля́вы, састарэ́лы

**dilapidation** [dɪˌlæpɪˈdeɪʃən] n. распáд -у *m.*; развáл -у *m.*; трухлéньне *n.*, паўразбу́раны стан

**dilate** [daɪˈleɪt] v.t. 1. пашырáць; пашырáцца. 2. збóльшваць; павялíчваць

**dilatory** [ˈdɪlətɔ:ri] adj. 1. мару́дны, мару́длівы; павóльны. 2. якí выклікáе затры́мку: ***dilatory tactics*** тáктыка адцягваньня

**dilemma** [dɪˈlemə] n. дылéма *f.*, цяжкí вы́бар

**dilettante** [ˌdɪləˈtɑ:nti] – n., pl. **-tes, -ti** 1. дылетáнт, верхагля́д -а *m.* 2. амáтар -а, любíцелlь -я *m.*, амáтарка, любíцелька *f.*
– adj. дылетáнцкі, амáтарскі

**diligence** [ˈdɪlɪdʒəns] n. старáннасьць, шчы́расьць, руплíвасьць *f.*

**diligent** [ˈdɪlɪdʒənt] adj. старáнны, руплíвы, шчы́ры: ***diligent to learn*** старáнны ў наву́цы

**diligently** [ˈdɪlɪdʒəntli] adv. стара́нна, руплі́ва, ру́пна

**dill** [dɪl] n. кроп -у *m.*

**dilute** [daɪˈlu:t] – v.t. 1. разво́дзіць (*ва́дкасьцю*); разрэ́джваць, разьме́шваць з ва́дкасьцю. 2. зьмянша́ць; аслабля́ць
– adj. разьве́дзены, разрэ́джаны

**dilution** [daɪˈlu:ʃən] n. 1. разво́джаньне (*ва́дкасьцю*), разрэ́джваньне, разьвядзе́ньне *n.* 2. аслабле́ньне

**dim** [dɪm] – adj. 1. цьмя́ны, невыра́зны: ***a dim light*** цьмя́нае сьвятло́. 2. невыра́зны, нядо́бра ба́чны *або́* чу́ты; няя́сны, не зусі́м зразуме́лы: ***a dim recollection*** цьмя́ны ўспамі́н. 3. слабы́ (*зрок, слых, інтэле́кт*): ***dim-witted*** прыдуркава́ты, умысло́ва запаво́лены. 4. Informal благі́, неспрыя́льны: ***to take a dim view of...*** глядзе́ць пэсымісты́чна на ...
– v.t. прыцямня́ць; зацьмява́ць: ***dim the headlights*** зьме́ншыць фа́ры

**dime** [daɪm] n. манэ́та ва́ртасьцю 10 цэ́нтаў

**dimension** [ˌdaɪˈmenʃən] n. вымярэ́ньне *n.*, выме́р, паме́р -у *m.*: ***of three dimensions*** у трох выме́рах

**diminish** [dɪˈmɪnɪʃ] v. 1. зьмянша́ць; аслабля́ць (*сі́лы, энэ́ргію*). 2. ме́ншаць; зьмянша́цца

**diminution** [ˌdɪmɪˈnju:ʃən] n. зьме́ншаньне, паме́ншаньне *n.*

**diminutive** [dɪˈmɪnjətɪv] – adj. 1. малы́, мале́нькі, здрабне́лы. 2. Gram. памянша́льны
– n. 1. мала́я рэч *ці* асо́ба; мініяту́ра *f.* 2. Gram. сло́ва ў памянша́льнай фо́рме

**dimness** [ˈdɪmnəs] n. 1. цьмя́насьць, невыра́знасьць, няя́снасьць *f.* 2. Informal ту́пасьць *f.*

**dimple** [ˈdɪmpəl] – n. 1. я́мачка *f.* (*на шчо́ках, на барадзе́*). 2. рабізна́ *f.*
– v.t. рабаці́ць, пакрыва́ць рабізно́ю

**din** [dɪn] – n. го́ман, гру́кат, грук -у *m.*
– v.i. гамані́ць, гру́каць, грыката́ць
– v.t. 1. аглуша́ць кры́кам, гру́катам. 2. паўтара́ць бяско́нца

**dine** [daɪn] – v. абе́даць
– v.t. частава́ць абе́дам
• ***dine out*** абе́даць у рэстара́не

**diner** [ˈdaɪnər] n. 1. асо́ба, што абе́дае. 2. ваго́н-рэстара́н; рэстара́н -а *m.*

**dinghy** [ˈdɪŋi] n., pl. **-ghies** малы́ вёсельны чо́вен; шлю́пка *f.*

**dingy** [ˈdɪndʒi] adj. цёмны, бру́дны, заку́раны, змро́чны

**dining car** ваго́н-рэстара́н

**dining room** стало́вы пако́й, стало́вая

**dinner** [ˈdɪnər] n. 1. абе́д -у *m.* 2. банке́т -у *m.*

**dinner coat** or **jacket** смо́кінг -а *m.*

**dinnerware** [ˈdɪnərwer] n. стало́вы пры́бор *або́* сэрві́з -а *m.*

**dinosaur** [ˈdaɪnəsɔ:r] n. дыназа́ўр -а *m.*

**diocesan** [daɪˈɑ:sɪsən] – adj. епархія́льны; дыяцэзія́льны
– n. япі́скап -а *m.*

**diocese** [ˈdaɪəsɪs] n. япа́рхія *f.*; дыяцэ́зія *f.*

**diopter** [daɪˈɑ:ptər] or **dioptry** [daɪˈɑ:ptri] n., pl. **-tries,** Optics дыёптрыя *f.*

**dioxide** [daɪˈɑ:ksaɪd] n., Chem. двухво́кіс -у *m.*

**dip** [dɪp] – v.t. 1. акуна́ць; занура́ць. 2. зачэ́рпваць; чарпа́ць. 3. апуска́ць і адра́зу ўздыма́ць: ***dip the flag*** салютава́ць сьця́гам. 4. спушча́цца ўні́з. 5. рабі́ць рэвэра́нс
– n. 1. акуна́ньне, апушча́ньне *n.* (*у ва́дкасьць*). 2. ва́дкасьць, раство́р (*для фарбава́ньня, чы́сткі*). 3. рапто́ўны спад (*гары́, цэ́наў*)
• ***a cheese dip*** мача́нка з сы́ру
• ***dip into*** а) прагле́дзець збо́льшага, павярхо́ўна. б) чарпану́ць зь не́чага: ***to dip into one's savings*** чарпану́ць з запа́саў

**diphtheria** [dɪfˈθɪriə] n. дыфтэры́я

**diphthong** [ˈdɪfθɔ:ŋ] n. дыфто́нг -у *m.*

**diploma** [dɪˈploʊmə] n., pl. **-mas, -mata** [-mətə] 1. дыплём -у *m.*, пасьве́дчаньне *n.* 2. афіцы́йны дакумэ́нт, гра́мата *f.*

**diplomacy** [dɪˈploʊməsi] n., pl. **-cies** дыпляма́тыя *f.*

**diplomat** [ˈdɪpləmæt] n. 1. дыплям́ат -а *m.* 2. тактоў́ная асо́ба

**diplomatic** [ˌdɪpləˈmætɪk] adj. дыпляматычны

**dipper** [ˈdɪpər] n. чарпáк -á *m.*; карлэ́ц -цá *m.*, кóнаўка *f.*

• ***Big Dipper*** Вялíкі Воз (*сузóр'е*)

• ***Little Dipper*** Малы́ Воз (*сузóр'е*)

**dipsomania** [ˌdɪpsəˈmeɪniə] n. дыпсамáнія *f.*, хранíчны запóй

**diptych** [ˈdɪptɪk] n. ды́птых -а *m.*

**dire** [daɪr] adj. страшэ́нны; бязьлíтасны, жóрсткі: ***he is in dire need of help*** ямý страшэ́нна патрэ́бная дапамóга

**direct** [dəˈrekt] – v.t. 1. кіравáць. 2. загáдваць, камáндаваць. 3. накірóўваць, пакáзваць дарóгу, давáць інфармáцыю. 4. скірóўваць. 5. адрасавáць

– adj. 1. прóсты: ***a direct route*** прóсты шлях. 2. Gram. прóсты: ***direct object*** прóстае дапаўнéньне. 3. шчы́ры, прóсты. 4. непасрэ́дны, беспасярэ́дні: ***direct influence*** беспасярэ́дні ўплы́ў

**direct current** стáлы ток

**direction** [dəˈrekʃən] n. 1. кірýнак -ку *m.* 2. указáньне *n.*, дырэкты́ва or *pl.* дырэкты́вы; інстрýкцыя *f.*, прадпісáньне *n.* (*лéкарскае*). 3. кіраўнíцтва, правады́рства *n.*

**directive** [dəˈrektɪv] – n. загáд -у *m.*; дырэкты́ва, інстрýкцыя *f.*; накáз -у *m.*

– adj. кірýючы, кіраўнíчы, кіраўнíцкі

**directly** [dəˈrektli] adv. 1. прóста, беспасярэ́дне: ***directly north*** прóста на пóўнач. 2. шчы́ра, адкры́та; прóста. 3. даклáдна, зусíм: ***directly opposite*** зусíм супрацьлéгла. 4. адрáзу, зáраз жа

**directness** [dəˈrektnəs] n. непасрэ́днасьць *f.*; прастатá *f.*; шчы́расьць *f.*

**director** [dəˈrektər] n. кіраўнíк -á *m.*, дырэ́ктар -а *m.*; рэжысэ́р -а *m.*

**directorate** [dəˈrektərət] n. 1. дырэ́ктарства *n.* 2. калéгія дырэ́ктараў, дырэ́кцыя *f.*, дырэктарáт -у *m.*

**directory** [dəˈrektəri] – n., pl. **-ries** давéднік -а *m.*, áдрасная кнíга: ***telephone directory*** тэлефóнная кнíга

– adj. дырэкты́ўны; дарáдчы; давéдачны

**dirge** [dɜːrdʒ] n. пахавáльны сьпеў; лямант -у *m.*, галашэ́ньне *n.*

**dirigible** [ˈdɪrɪdʒəbəl] n. дырыжáбль -я *m.*

**dirk** [dɜːrk] – n. кінжáл -а *m.*

– v.t. прабíць кінжáлам

**dirt** [dɜːrt] n. 1. гразь *f.*; бруд -у *m.* 2. зямля́ *f.*; глéба *f.*, грунт -у *m.* 3. брýдныя *абó* нíзкія ўчы́нкі, дýмкі, слóвы; несумлéннасьць, нікчэ́мнасьць *f.* 4. Sl. плётка *f.*

• ***dirt-cheap*** вéльмі тáнны

• ***dirt road*** грунтавáя, небрукавáная дарóга

• ***eat dirt*** цярпéць зьнявáгі абó прынíжэ́ньне

• ***hit the dirt*** а) упáсьці твáрам у балóта. б) Milit. Лéгчы! (*камáнда*)

**dirty** [ˈdɜːrti] – adj. 1. запэ́цканы; нячы́сты, брýдны. 2. нíзкі, пóдлы: ***He played dirty tricks on me*** Ён зрабіў мне паскýдзтва. 4. непрыстóйны, брыдкí (*пра слóвы*)

– v.t. забрýдзіць, запэ́цкаць

– v.i. запэ́цкацца, забрýдзіцца

**disability** [ˌdɪsəˈbɪləti] n., pl. **-ties** няздáтнасьць *f.*; бясьсíльле *n.*; непрацаздóльнасьць, інвалíднасьць *f.*

**disable** [dɪˈseɪbəl] v.t. калéчыць, рабíць няздóльным, непрыдáтным, абясьсíльваць, рабíць непрацаздóльным

**disabled** [dɪˈseɪbəld] adj. скалéчаны, непрацаздóльны: ***disabled soldier*** інвалíд вайны́

**disabuse** [ˌdɪsəˈbjuːz] v. вывóдзіць з блýду: ***Education should disabuse people of superstitions*** Адукáцыя павíнна вы́зваліць людзéй ад забабóнаў

**disaccord** [ˌdɪsəˈkɔːrd] – v.i. не згаджáцца

– n. нязгóда, нязлáджанасьць *f.*; рознагалóсьсе *n.*, недахóп гармóніі

**disadvantage** [ˌdɪsədˈvæntɪdʒ] n. 1. невыгóда *f.*, невыгóднае станóвішча: ***to be at a disadvantage*** быць у неспрыя́льным станóвішчы. 2. стрáта, шкóда, некары́сьць *f.*

**double** [ˈdʌbəl] – adj. 1. падвóйны: ***double meaning*** падвóйнае значэ́ньне. 2. дваíсты. 3. дваякí
– adv. 1. падвóйна, у два разы́: ***he sees double*** ямý двóіцца ўваччý. 2. удвýх, удзьвюх, удваíх
– n. 1. падвóйная кóлькасьць. 2. дублéт -а *m.*, двайнíк -á *m.* 3. дублёр -а *m.* (*актóр*). 5. у дзьве стóлкі
– v. 1. падвóйвацъ (-ца), павялíчваць у два разы́. 2. дублявáць. 3. складáць у дзьве стóлкі. 4. абплывáць навóкал. 5. выкóнваць дзьве фýнкцыі; грáць дзьве рóлі
• ***double back*** завярнýцца назáд
• ***double up*** а) скýрчыцца: ***He doubled up with pain*** Ён скýрчыўся ад бóлю. б) жыць з *кім* у адны́м пакóі, спáць у адны́м лóжку
• ***on the double*** бягóм, хутчэ́й

**double-barreled** [ˌdʌbəlˈbærəld] adj. 1. дубальтóвы: ***a double-barreled shotgun*** дубальтóўка *f.* 2. двухсэнсóўны; двухмэ́тны

**double bass** басэ́тля *f.*, кантрабáс -а *m.*
– adj. басэ́тлевы

**double bed** двухспáльны лóжак

**double-breasted** [ˌdʌbəlˈbrestɪd] adj. двухбóртны (*пінжáк, жакéт*)

**double-check** [ˌdʌbəlˈtʃek] v. правярáць, кантралявáць двóйчы

**double-cross** [ˌdʌbəlˈkrɔ:s] v. ашýкваць, абдýрваць, перахітрáць

**double-dealer** [ˌdʌbəlˈdi:lər] n. махляр -á *m.*, двурýшнік -а *m.*

**double-edged** [ˌdʌbəlˈedʒd] adj. 1. вóстры з абóдвух бакóў, двухбакóва вóстры. 2. двузнáчны: ***a double-edged compliment*** двузнáчны камплімэ́нт

**double-faced** [ˌdʌbəlˈfeɪst] adj. 1. двудýшны; крывадýшны, няшчы́ры. 2. двухбакóвы

**double-park** [ˌdʌbəlˈpɑ:rk] v. двурáдна паркавáць

**double standard** двайны́ падыхóд, двайнáя марáль

**doubly** [ˈdʌbli] adv. падвóйна, двóйчы: ***doubly careful*** двóйчы асьцярóжны

**doubt** [daʊt] – v.t. сумнявáцца, чýцца няпэ́ўным
– n. сумнявáньне *n.*, сумнéў -ву *m.*
• ***in doubt*** няпэ́ўны
• ***no doubt*** а) напэ́ўна, вядóма. б) праўдападóбна
• ***without doubt*** напэ́ўна; бессумнéўна; бясспрэ́чна

**doubtful** [ ˈdaʊtfəl] adj. 1. няпэ́ўны, сумнéўны. 2. падазрóны: ***doubtful character*** падазрóная асóба

**doubtless** [ˈdaʊtləs] – adv. 1. напэ́ўна, без сумнéву. 2. праўдападóбна
– adj. пэ́ўны, бессумнéўны

**douche** [du:ʃ] n. жанóчае ўнутранóе прамывáньне

**dough** [doʊ] n. 1. цéста *n.* 2. Sl. грóшы

**doughnut** [ˈdoʊnʌt] n. пóнчык -а *m.*

**doughy** [ˈdoʊi] adj. 1. як цéста, цéстападóбны. 2. блéдны, бляды́, абвíслы. 3. тупы́ (*пра чалавéка*)

**dour** [dʊr] adj. сурóвы, злóсны; непахíсны

**douse** [daʊs] v.t. залівáць, аблівáць; мачы́ць; акунáць

**dove** [dʌv] n. 1. тýркаўка, галýбка *f.* 2. антымілітары́ст -а *m.* 3. лагóдная асóба

**dowdy** [ˈdaʊdi] – adj. неахáйна апрáнуты; знóшаны
– n. неахáйна апрáнутая жанчы́на

**down I** [daʊn] – adv. 1. уніз, нанíз, надóл, на зямлю: ***to come down*** спускáцца, зыхóдзіць, зьяжджáць унíз. 2. унíзе, надóле. 3. да: ***From general down to common soldier*** ад генэ́рала да радавóга жаўнéра; ***down to the present day*** аж да сёньняшняга дня
– v.t. 1. глытáць. 2. валíць, зьбівáць з ног. 3. перамагáць
– v.i. лéгчы: ***Down!*** (*да сабáкі*) Ляж!
• ***be down on*** злавáць, накідáцца на *кагó*
• ***be down with fever*** ляжáць у гарáчцы
• ***down-and-out*** быць зруйнавáным
• ***down to the ground*** дашчэ́нту, ушчэ́нт

• ***down with!*** далóў!
• ***sun is down*** сóнца зайшло
• ***take down*** запісáць
• ***$10 down*** 10 далярáў задáтку
• ***the ups and downs of life*** жыцьцёвыя ўдáчы й няўдáчы
• ***walk down the street*** ісьці вýліцай

**down II** [daʊn] n. 1. пух -у *m.* 2. пушóк а) Bot. варсінкі (*на павéрхні расьлíнаў ці пладóў*). б) пушóк (*на твáры маладóга хлапцá*)

**downcast** [ˈdaʊnkæst] adj. 1. скіравáны наніз, апýшчаны дóлу (*пóзірк*). 2. прыгнéчаны, прыбíты, засмýчаны

**downfall** [ˈdaʊnfɔ:l] n. 1. упáдіак -ку *m.* 2. лíлвень -ўня *m.*, залéва *f.*

**downgrade** [ˌdaʊnˈgreɪd] – n. нахíл -у *m.*; нахíленая рóўнядзь
– v.t. паніжáць у значэньні, вáртасьці

**downhearted** [ˌdaʊnˈhɑ:rtəd] adj. прыгнéчаны, духóва разьбíты; абезнадзéены

**downhill** [ˌdaʊnˈhɪl] – adv. згары́; уніз, пад адхóн
– adj. 1. з нахíлам, пакáты. 2. пагóршаны: ***a downhill condition*** пагóршаны стан

**download** [ˈdaʊnloʊd] v. заладóўваць загружáць (*зь Інтэрнэту*)

**downpour** [ˈdaʊnpɔ:r] n. улéва, залéва *f.*, лíлвень -ўня *m.*

**downright** [ˈdaʊnraɪt] – adj. 1. íсны; я́ўны, відавóчны. 2. прóсты, катэгары́чны
– adv. цáлкам, абсалю́тна, зусíм, прóста: ***He was downright rude*** Ён быў прóста-ткі грýбы

**downsize** [ˈdaʊnsaɪz] v.t. памяншáць (*памéрам, у велічыні́*)

**downstage** [ˌdaʊnˈsteɪdʒ] adv. на авансцэне

**downstairs** [ˌdaʊnˈsterz] – adv. 1. уніз, на ніжэйшы павéрх. 2. унíзе; на ніжэйшым павéрсе
– n. ніз, ніжэйшы павéрх у дóме

**downstream** [ˌdaʊnˈstri:m] adv., adj. з плы́ньню ракí, па вадзé

**down-to-earth** [ˌdaʊntuˈɜ:rθ] adj. 1. практы́чны. 2. натурáльны, прóсты, шчыры

**downtown** [ˌdaʊnˈtaʊn] – n. гандлёвая чáстка мéста; ніжні гóрад
– adv., adj. у цэнтар, у цэнтры мéста; у галóўнай *абó* гандлёвай чáстцы мéста; у галóўную чáстку мéста

**downtrodden** [ˈdaʊnˌtrɑ:dən] adj. 1. прыгнéчаны, які цéрпіць уціск, тыранíю. 2. стаптáны, патаптáны

**downward** [ˈdaʊnwərd] – adv. далóў, дóлу, да дóлу; уніз, данíзу
– adj. накíравáны дóлу, уніз

**downy** [ˈdaʊni] adj. 1. пушы́сты; мя́ккі, пýхкі. 2. пухóвы

**dowry** [ˈdaʊri] n., pl. **-ries** 1. пасáг -у *m.* 2. прырóджаныя здóльнасьці, талéнт -у *m.*

**doze** [doʊz] – v.i. драмáць: ***to doze off*** задрамáць
– v.t. рабíць сóнным
– n. дрымóта *f.*, лёгкі сон, паўслóн -сну́ *m.*

**dozen** [ˈdʌzən] n., pl. **-ens** тýзін -а *m.*

**dozy** [ˈdoʊzi] adj. санлíвы, сóнны

**drab I** [dræb] – adj. цьмяны́; манатóнны, нецікáвы
– n. 1. цьмя́ны брунáтна-шэры кóлер. 2. нефарбавáнае сукнó

**drab II** [dræb] – n. 1. неахáйная жанчы́на. 2. Sl. прастытýтка, шлю́ха *f.*
– v.i. распýсьнічаць

**drabness** [ˈdræbnəs] n. шэрасьць, цьмя́насьць *f.*

**draft** [dræft] – n. 1. прóйма *f.*, правéлў -ву, скразьня́к -ý *m.* 2. ю́шка *f.* (*у кóміне*). 3. эскíз -у *m.*; нáкід -у, чарнавíк -á *m.*: ***first draft of a play*** пéршы нáкід п’éсы. 4. набóр -у, прызы́лў -ву *m.* (*у вóйска*). 5. бáнкаўскі вэксаль
– v.t. 1. накідáць плян, рабíць чарнавíк. 2. прызывáць у вóйска. 3. цягнýць цяжáр
– adj. 1. першапачáтны. 2. які́ ця́гне, цягýчы (*конь*)
• ***draft beer*** пíва з бóчкі

**draft board** прызы́ўная камíсія

**draft dodger,** Informal той, хто ўхіля́ецца ад прызы́ву ў вóйска

**draftee** [ˌdræfˈti:] n. прызыўнíк -á *m.*

**drafter** [ˈdræftər] n. складáльнік праéктаў

**draftsman** [ˈdræftsmən] n., pl. **-men** 1. красьляр -рá, чарцёжнік, рысавáльнік -а *m.* 2. áўтар праéктаў

**drag** [dræg] – v.t. **(-gg-)** 1. цягнýць, валачы́: ***to drag away*** адцягнýць, адвалачы́; ***to drag in*** уцягнýць. 2. драгавáць. 3. баранавáць
– v.i. валачы́ся, плéсьціся, цягнýцца: ***to drag oneself behind*** сýнуцца за *кім*
– n. 1. дрáга *f.* 2. перашкóда, замíнка *f.* 3. нíзкія мóцныя сáні. 4. цяжкáя баранá. 5. тóрмаз -у *m.* 6. нýдная асóба
• ***drag on/out*** трывáць занáдта дóўга, расьцягваць
• ***drag one's feet*** валачы нóгі

**draggle** [ˈdrægəl] – v.t. пэ́цкаць, замóчваць валóчачы па балóце *абó* вадзé
– v.i. 1. пэ́цкацца. 2. валачы́ся ззáду, адставáць. 3. разбрыдáцца, ісьцí ўразбрóд

**dragnet** [ˈdrægnet] n. аблáва *f.*

**dragon** [ˈdrægən] n. дракóн -а *m.*

**dragonfly** [ˈdrægənflaɪ] n., pl. **-flies** стракaзá, стрэ́лка *f.*

**drain** [dreɪn] – v.t. 1. адця́гваць; сцэ́джваць, выця́гваць; вычэ́рпваць. 2. асýшваць . 3. выпівáць да дна
– v.i. 1. сьцякáць. 2. высыхáць
– n. 1. асушáльны канáл *абó* трубá; вадасьцёк, дрэнáж -ý *m.* 2. Med. дрэнáжная трýбка. 3. вычарпáньне сíлаў
• ***down the drain*** дарэ́мна прапáла; катý пад хвост

**drainage** [ˈdreɪnɪdʒ] n. 1. асушэ́ньне *n.* 2. каналізáцыя *f.*

**drama** [ˈdrɑːmə] n. 1. дрáма *f.* 2. драматургíя *f.*

**dramatic** [drəˈmætɪk] adj. 1. драматы́чны: ***dramatic art*** драматы́чнае мастáцтва. 2. тэатрáльны, сэнсацы́йны

**dramatist** [ˈdræmətəst] n. драматýрг -а *m.*

**dramatize** [ˈdræmətaɪz] v.t. 1. драматызавáць. 2. перарабля́ць твор на п'éсу: ***to dramatize a novel*** драматызавáць рамáн

**dramaturgy** [ˈdræmətɜːrdʒi] n. драматургíя *f.*

**drank** [dræŋk] v., *p.t. of* **drink**

**drape** [dreɪp] – v.t. 1. драпіравáць, ахýтваць, завéшваць тканíнай. 2. уклaдáць фáлдамі, склáдкамі
– v.i. спадáць фáлдамі
– n. парцьéра *f.*, цяжкáя фірáнка

**drapery** [ˈdreɪpəri] n., pl. **-ries** 1. драпірóўка. 2. фірáнкі *pl.* 3. мануфактýра *f.* 4. мануфактýрная крáма

**drastic** [ˈdræstɪk] adj. крáйні, надзвычáйны; гвалтóўны; рашýчы: ***drastic measures*** надзвычáйныя зáхады

**draught** [dræft] n, v., adj. *гл.* **draft**

**draw** [drɔː] **drew, drawn, drawing** – v.t. 1. цягнýць, зацягваць, выця́гваць: ***to draw the curtain*** зацягнýць фірáнку. 2. вымáць, выхóпліваць, выця́гваць: ***Draw your hand out of the pocket*** Вы́мі рукý з кішэ́ні. 3. прыця́гваць; выклікáць: ***to draw crowds*** прыця́гваць натóўпы; ***to draw laughter*** вы́клікаць сьмех. 4. малявáць. 5. уздыхáць: ***to draw a sigh*** глыбóка ўздыхнýць. 6. скóнчыць гульнé ўнічы́ю. 7. выця́гваць, расьця́гваць: ***The metal piece was drawn into a wire*** Мэтáл быў вы́цягнуты ў дрот
– v.i. 1. падыхóдзіць, падсóўвацца. 2. нацягваць
– n. 1. пацягваньне, пацягнéньне *n.* 2. нічы́йны вы́нік гульнí, рóзыгрыш -у *m.*, рэ́міс -у *m.* 3. а) жараб'ёўка *f.* б) жэ́рабе *n.*
• ***draw apart*** рассóўвацца, разыхóдзіцца
• ***draw away*** адсóўваць, адця́гваць; адыхóдзіцца
• ***draw blood*** а) спускáць кроў. б) браць кроў
• ***draw down*** сьця́гваць унíз, далóў
• ***draw lots*** кідáць жэ́рабе
• ***draw off*** адця́гваць, адвóдзіць; адыхóдзіць
• ***draw on*** наблiжáцца: ***Evening drew on*** Наблíзіўся вéчар
• ***draw out*** расьця́гвацꞁь (-ца); выця́гваць (-ца)

• ***draw the line between*** адмежаваць
• ***draw together*** зблiжацца
• ***draw up*** а) склáсьцi (*дакумэнт*). б) пад'éхаць
**drawback** [ˈdrɔ:bæk] n. 1. невыгóда, перашкóда, шкóда *f.*; адмóўны бок. 2. недахóп -у *m.* 3. звярóтнае мыта
**drawbridge** [ˈdrɔ:brɪdʒ] n. пад'ёмны мост
**drawer I** [ˈdrɔ:r] n. шуфляда *f.*, прыстóл|ак -ка, прыстóлiк -а *m.*
**drawer II** [ˈdrɔ:ər] n. 1. красьляр -á, рысавáльнiк -а *m.* 2. красьлярная прылáда
**drawers** [ˈdrɔ:rz] n., pl. спóднiкi *pl. only*
**drawing** [ˈdrɔ:ɪŋ] n. 1. малюн|ак, рысун|ак -ку *m.* 2. малявáньне, рысавáньне *n.* 3. дрóбка гарбáты (*для завáркi*)
**drawing board** чарцёжная *абó* рысавáльная дóшка
**drawing room** 1. гасьцёўня *f.* 2. афiцыйны прыём
**drawknife** [ˈdrɔ:naɪf] n., pl. **-knives** струг -а *m.*
**drawl** [drɔ:l] – v. вымаўляць працяжна
– n. працяжнае вымаўленьне, павóльная гутарка
**dray** [dreɪ] – n. фурмáнка *f.*, грузавáя фурмáнка
– v.t. перавóзiць фурмáнкай
**dread** [dred] – v.t. мóцна баяцца, не любiць: ***My cat dreads water*** Мой кот баiцца вады
– n. жах, страх -у *m.*; бóязь *f.*
– adj. стрáшны, страшэнны
**dreadful** [ˈdredfəl] adj. 1. жахлiвы, стрáшны, страшэнны. 2. Informal вельмi благi, непрыемны; агiдны
**dream** [dri:m] – n. 1. сон сну *m.*: ***I had a bad dream*** Я сьнiў нядобры сон. 2. летуценьне *n.*, лятун|ак -ку *m.*; мрóя *f.*
– v. **dreamed** or **dreamt** [dremt] 1. сьнiць. 2. мрóiць, летуцець; уяўляць
**dreamer** [ˈdri:mər] n. летуценьнiк -а *m.*
**dreamy** [ˈdri:mi] adj. 1. пóўны мáраў. 2. няясны, цьмяны: ***a dreamy recollection*** няясны ўспамiн. 3. летуценны; непрактычны: ***a dreamy person*** летуценьнiк -а *m.*
**dreariness** [ˈdrɪrinəs] n. панурасьць *f.*; нудá *f.*; маркóта *f.*
**dreary** [ˈdrɪri] adj. 1. змрóчны, маркóтны, бязрáдасны, гнятлiвы. 2. нецiкáвы, нудны
**dredge I** [dredʒ] – n. 1. землячарпáлка *f.*, экскавáтар -а *m.*, дрáга *f.* 2. сетка для дрáгi. 3. лóдка з дрáгай
– v.t. 1. драгавáць. 2. выцягваць наверх
**dredge II** [dredʒ] v.t. абсыпáць мукóю, цукрам
**dregs** [dregz] n., pl. 1. асáд|ак -ку *m.*, бузá *f.* 2. адкiды *pl. only,* нiзы, падóнкi *pl.*: ***the dregs of society*** нiзы грамáдзтва
**drench** [drentʃ] v.t. прамачыць, змачыць
**dress** [dres] – n. 1. сукенка *f.* 2. вóпратка *f.*, убрáньне *n.*, адзежына *f.*
– v.t. 1. апранáць, адзявáць. 2. убiрáць, прыбiрáць. 3. абскубсьцi й вытрыбушыць (*курыцу*). 4. перавязваць рáну
– v.i. апранáцца. 2. Milit. выстрóйвацца ў прóстую лiнiю
• ***dress oneself*** адзявáцца; апранáцца
• ***dress up*** прыбiрáцца
**dresser** [ˈdresər] n. 1. камóда *f.* 2. буфэт -у *m.*
**dressing** [ˈdresɪŋ] n. 1. падлiўка, прыпрáва *f.*, сос -у *m.* 2. начынка *f.* (*для iндыкá, курыцы*). 3. бiнты, лекi для перавязкi рáны. 4. угнаеньне *n.* 5. адзявáньне, апранáньне *n.*
**dressing gown** халáт -а *m.*
**dressing room** прыбiрáльня *f.* (*актóрская*)
**dressmaker** [ˈdresˌmeɪkər] n. краўчыха *f.*
**dress rehearsal** генэрáльная рэпэтыцыя
**dressy** [ˈdresi] adj. шыкóўны, элегáнцка ўбрáны
**dribble** [ˈdribəl] – v. 1. кáпаць. 2. пускáць сьлiну. 3. Sport. адбiвáць мячык аб падлóгу (*у баскетбóле*)
– n. 1. кáпаньне *n.* 2. малáя кóлькасьць. 3. Sport. адбiцьцё мячыка аб падлóгу, дрыблiнг -у *m.*
**dried** [draɪd] v., *p.t. of* **dry** сушаны; сухi

**drier** [ˈdraɪər] n. сушы́лка *f.*

**drift** [drɪft] – v.t. 1. не́сьці; зно́сіць (*ве́трам*); гна́ць, зганя́ць: ***The raft drifted downstream*** Плыт пане́сла па рацэ́. 2. намята́ць: ***The wind drifted the snow into high piles*** Ве́цер намёў гу́рбы сьне́гу
– v.i. 1. плы́сьці (*па плы́ні*), быць не́сеным плы́ньню: ***drift by*** праплыва́ць. 2. жыць бязмэ́тна, абіва́цца
– n. 1. цячэ́ньне *n.* 2. гу́рба (*сьне́гу*), нане́сеная ку́ча. 3. кіру́н|ак -ку *m.*, схі́льнасьць *f.*; накірава́насьць *f.*; тэндэ́нцыя *f.* 4. сэнс -у *m.*; значэ́ньне *n.*: ***I get the drift of this conversation*** Я разуме́ю сэнс гэ́тай гу́таркі; ***I get the drift*** Я разуме́ю, куды́ ты хі́ліш. 5. дрэйф -у *m.* (*самалёта, вадапла́ва*), адхіле́ньне ад кіру́нку
• ***drift apart*** разы́йсьціся: ***The friends drifted apart*** Даро́гі сябро́ў разыйшлі́ся
• ***drift together*** зблі́зіцца

**drifter** [ˈdrɪftər] n. валацу́га *m.*, бяздо́мн|ы -ага *m.*

**drift ice** ледахо́д -у *m.*

**drill I** [drɪl] – n. 1. сьвярдзёл|ак -ка, сьве́рдз|зел -ла *m.*; сьвідрава́льны стано́к. 2. фізкульту́рныя практыкава́ньні, трэніро́ўка *f.*; муштра́ *f.* 3. пра́ктыка *f.*
– v.t. 1. сьвідрава́ць; бу́рыць. 2. муштрава́ць; навуча́ць, удаўбля́ць

**drill II** [drɪl] – n. 1. радава́я се́ялка. 2. рад|о́к -ка́ *m.* (*для се́яньня*)
– v.t. се́яць радка́мі

**driller** [ˈdrɪlər] n. 1. бураві́к -а́ *m.* (*чалаве́к*). 2. сьве́рд|зел -ла *m.*

**drilling** [ˈdrɪlɪŋ] n. 1. бурэ́ньне, сьвідрава́ньне *n.* 2. муштрава́ньне, навуча́ньне, практыкава́ньне *n.*

**drink** [drɪŋk] **drank, drunk** – v.t. 1. пі́ць. 2. усмо́ктваць
– v.i. 1. вы́піць, напі́цца. 2. піць алькаго́ль, выпіва́ць, быць п'я́ніцай
– n. 1. напо́|й -ю *m.* 2. ча́рка гарэ́лкі, кактэ́йл|ь -ю *m.* 3. п'я́нства *n.*
• ***drink dry*** вы́піць да дна
• ***drink in*** паглына́ць (*му́зыку, ве́ды*)
• ***drink to*** выпіва́ць за *каго́*

**drinker** [ˈdrɪŋkər] піт|о́к -ка́ *m.*

**drip** [drɪp] – v., **dripped** or **dript, dripping** 1. ка́паць. 2. ка́паць з *чаго́*, сьцяка́ць: ***His forehead was dripping sweat*** У яго́ цёк з ло́бу пот
– n. 1. ка́паньне *n.* 2. Informal зану́да *f.*

**drip-dry** [ˌdrɪpˈdraɪ] adj. які́ не патрабу́е прасава́ньня, хуткасо́хлы

**dripping** [ˈdrɪpɪŋ] – n. ка́паньне *n.*
– adj. прамо́клы: ***dripping wet*** прамо́клы наскро́зь

**drippings** pl. тлушч і сок ад сма́жанага мя́са

**drive** [draɪv] **drove, driven** – v.t. 1. кірава́ць, ве́сьці (*а́ўта*), пуска́ць у рух: ***I was driven home*** Мяне́ заве́зьлі даха́ты. 2. біць, забіва́ць, убіва́ць: ***to drive the nail into the wall*** забіва́ць цьвік у сьце́нку. 3. змуша́ць; ганя́ць; даво́дзіць да кра́йнасьці: ***The boss drives workers too hard*** Нача́льнік ганя́е працаўнiко́ў; ***He was driven mad*** Яго́ давялі́ да ша́лу; ***Hunger drove him to theft*** Го́лад змусі́ў яго́ кра́сьці
– v.i. 1. е́хаць: ***The car drives well*** А́ўта до́бра е́дзе. 2. ху́тка ру́хацца, імча́цца
– n. 1. пае́здка *f.* (*а́ўтам*): ***to go for a drive*** прае́хацца. 2. пад'е́зд -у *m.* 3. энэ́ргія, ініцыяты́ва *f.*, на́ступ -у *m.* 4. падахво́чваньне *n.*, сты́мул -у *m.*; кампа́нія *f.*: ***The club held a drive for new members*** Клюб правёў кампа́нію вэрбо́ўкі но́вых сябро́ў. 5. Milit. ата́ка *f.*; на́ступ -у *m.*
• ***drive apart*** разагна́ць, разьдзялі́ць
• ***drive away*** прагна́ць, адагна́ць
• ***drive into*** а) уяжджа́ць. б) растлума́чваць, убіва́ць у галаву́
• ***drive up*** пад'е́хаць

**drive-in** [ˈdraɪvɪn] n. ме́сца паслу́гі з зае́здам туды́ ў аўтамабі́лі: ***drive-in bank*** банк, у які́м право́дзіцца транса́кцыя, калі́ кліе́нт не высядае з а́ўта

**drivel** [ˈdrɪvəl] – n. 1. дрэнь *f.*, дурны́я гу́таркі. 2. сьлінацёк -у *m.*
– v.t. 1. сьліня́віць. 2. гавары́ць дурні́цу

– v.i. сьлінявіцца

**driver** [ˈdraɪvər] n. 1. шафёр -а *m.*, кіроўц|а -ы *m.*; машыніст -а *m.* 2. прыганят|ы -ага *m.*

**driveway** [ˈdraɪvweɪ] n. 1. пад'ёзд -у *m.* 2. дарога *f.*

**driving licence** кіравецкія, шафёрскія правы

**drizzle** [ˈdrɪzəl] – n. імжа, імжака *f.*
– v.i. імжэць, імжыць, імгліць
– v.t. пырскаць; крапіць; апырскваць

**droll** [droʊl] – adj. забаўны; камічны
– n. блазн|ен -на *m.*, штукар -а *m.*, фігляр -а *m.*
– v.i. жартаваць; блазнаваць, штукарыць

**dromedary** [ˈdrɑ:mədəri] n., pl. **-daries** драмадэр -а *m.* , аднагорбы вярблюд

**drone I** [droʊn] – n. 1. труц|ень -тня *m.* 2. Informal гультай -я *m.*, гультайка *f.*, абібок -а *m.* 3. бесьпілётны самалёт
– v.i. абівацца бязьдзейна, гультаяваць

**drone II** [droʊn] – v. 1. гудзець; гусьці. 2. гаварыць манатонна
– n. 1. гуд -у *m.*, гудзеньне *n.* (*матору*). 2. басавая трубка дуды. 3. манатонны прамоўца

**droop** [dru:p] – v.i. 1. зьвісаць, вісець, апускацца. 2. вянуць (*пра расьліну*). 3. слабець, зьнемагаць
– v.t. апушчаць, апускаць, зьвешваць; спускаць

**drop** [drɑ:p] – n. 1. кропля *f.* 2. крыха *f.* (*чаго-н.*) 3. раптоўнае зьніжэньне; зьмяншэньне: ***a drop in prices*** зьніжэньне цэнаў
– v., (**-pp-**) 1. капаць. 2. падаць. 3. раптоўна зьніжацца, зьмяншацца. 4. пакідаць; перапыняць (*работу, тэму*): ***Let the matter drop*** Пакіньма пра гэта гутарыць. 5. прапускаць: ***You dropped something*** Вы нешта прапусьцілі. 6. сьцішаць, паніжаць: ***to drop the voice*** сьцішыць голас. 7. прапушчаць, прапускаць: ***This word can be dropped from the sentence*** Гэтае слова ў сказе можа быць прапушчанае
• ***drop in the bucket*** кропля ў моры
• ***Drop it!*** Перастань!
• ***Drop me a line*** Чырканеце мне пару словаў
• ***drop off*** а) паменшыцца: ***attendance dropped off*** прысутнасьць паменшылася. б) засынаць
• ***drop out*** пакінуць, не закончыўшы: ***He dropped out of school*** Ён не закончыў школы
• ***drop over*** зайсьці да *каго*

**drop leaf** адкідная дошка (*у стале*)

**droppings** pl. 1. кроплі *pl.* 2. памёт -у *m.*

**drought** [draʊt] n. засуха, суша *f.*

**drove I** [droʊv] v., *p.t. of* **drive**

**drove II** [droʊv] n. 1. чарада *f.*, стат|ак -ку *m.* 2. натоўп, гурт -у *m.*

**drown** [draʊn] – v.i. тапіцца
– v.t. 1. тапіць. 2. затапляць
• ***drown out*** заглушаць: ***Their voices were drowned out*** Іхныя галасы заглушыліся

**drowse** [draʊz] – v.i. 1. драмаць; быць сонным. 2. быць вялым, лянівым
– v.t. усыпляць, прысыпляць
– n. дрымота, санлівасьць *f.*

**drowsiness** [ˈdraʊzinəs] n. дрымота, санлівасьць *f.*, паўс|он -сну *m.*; асалавеласьць *f.*

**drowsy** [ˈdraʊzi] adj. санлівы; асалавелы, асавелы

**drub** [drʌb] v.t. 1. дубасіць, моцна біць, лупцаваць. 2. перамагаць зь вялікай перавагай. 3. даўбіць, убіваць: ***to drub an idea into his head*** убіць ідэю яму ў галаву

**drudge** [drʌdʒ] – n. працаўнік, які выконвае цяжкую, непрыемную працу
– v.i. цяжка працаваць (*як вол*)

**drudgery** [ˈdrʌdʒəri] n., pl. **-eries** цяжкая непрыемная праца

**drug** [drʌg] – n. 1. лек -у *m.* 2. наркотык -у *m.*
– v.t. 1. даваць наркотык. 2. усыпаць наркотык у ежу

**drug addict** наркаман -а *m.*, наркаманка *f.*

**druggist** [ˈdrʌgɪst] n. аптэкар -а *m.*

**drugstore** [ˈdrʌgstɔ:r] n. аптэка́рская кра́ма, аптэ́ка *f.*

**drum** [drʌm] n. 1. бу́б|ен -на *m.*, бараба́н -а *m.* 2. жале́зная бо́чка. 3. Anat. бараба́нная перапо́нка ў ву́ху
– v.i. бараба́ніць
– v.t. убіва́ць у галаву́, удаўбля́ць

**drummer** [ˈdrʌmər] n. бараба́ншчык -а, бубна́ч -а́ *m.*

**drunk** [drʌŋk] – adj. 1. п'яны́: ***The man was drunk*** Чалаве́к быў п'яны́. 2. ап'яне́лы
– n. п'ян|ы́ -о́га *m.*, п'яна́я *f.*
– v., *p.t. of* **drink**

**drunkard** [ˈdrʌŋkərd] n. п'я́ніц|а -ы *m. & f.*, алькаго́лік -а *m.*

**drunken** [ˈdrʌŋkən] adj. п'яны́: ***The drunken man was arrested*** П'яно́га чалаве́ка арыштава́лі

**dry** [draɪ] – adj. 1. сухі́, засо́хлы, вы́сахлы. 2. сухі́, бязь сьлёзаў: ***dry sobs*** усхлі́пваньні. 3. сасьмя́глы. 4. сухі́, хало́дны, нячу́лы: ***a dry answer*** хало́дны адка́з. 5. нецікА́вы, ну́дны. 6. сухі́, го́лы: ***dry facts*** го́лыя фа́кты. 7. сухі́, несало́дкі (*пра віно́*)
– v.t. сушы́ць: ***Dry your hands*** Вы́тры ру́кі
– v.i. со́хнуць, высыха́ць; выпаро́ўвацць; сушы́цца: ***to dry up*** a) высыха́ць, павысыха́ць (*пра рэ́кі*). б) ско́нчыцца, вы́пісацца (*як маста́к, пісьме́ньнік*)
• ***dry law*** «сухі́ закон», забаро́на гнаць і прадава́ць алькаго́льныя напі́ткі
• ***dry run*** про́ба, про́бная прака́тка
• ***dry spell*** за́суха
• ***wipe dry*** выціра́ць насу́ха

**dry-cleaning** хімі́чная чы́стка

**dryly** [ˈdraɪli] adv. су́ха

**dryness** [ˈdraɪnəs] n. су́хасьць *f.*

**dual** [ˈdu:əl] adj. 1. падво́йны, двайны́, раздво́ены: ***dual ownership*** падвойна́я ўла́снасьць; ***dual personality*** раздвае́ньне асо́бы; ***dual purpose*** двухмэ́тнасьць. 2. падво́йны, падво́ены. 3. Gram. па́рны

**dualism** [ˈdu:əlˌɪzəm] n. дуалі́зм -у *m.*, двуі́снасьць, раздвое́насьць *f.*

**duality** [duˈæləti] n., pl. **-ties** двайны́я ўмо́вы або́ я́касьці; дваі́стасьць, падво́йнасьць *f.*

**dub** [dʌb] v., **dubbed, dubbing** дубліява́ць (*фільм*)

**dubious** [ˈdu:biəs] adj. 1. сумне́ўны. 2. які́ выклі́кае недаве́р, падазро́ны

**ducal** [ˈdu:kəl] adj. княжы; кня́скі; гэ́рцагскі

**duchess** [ˈdʌtʃɪs] n. княгі́ня, гэрцагі́ня *f.*

**duchy** [ˈdʌtʃi] n., pl. **-ies** кня́ства *n.*; гэ́рцагства *n.*

**duck I** [dʌk] n. ка́чка *f.*

**duck II** [dʌk] – v.i. 1. акуна́цца. 2. ху́тка схіля́цца. 3. уніка́ць, цішко́м уцяка́ць: ***to duck behind the building*** шу́снуць за буды́нак
– v.t. 1. акуна́ць. 2. схіля́ць рапто́ўна: ***She ducked her head*** Яна́ рапто́ўна схілі́ла галаву́. 3. Informal уніка́ць, ухіля́цца: ***to duck the question*** уні́кнуць адка́зу

**duck III** [dʌk] n. парусі́на *f.*

**duckling** [ˈdʌklɪŋ] n. качанё, качаня́ *n.*

**duct** [dʌkt] n. 1. труба́ *f.*, про́вад -у *m.* 2. прато́ка *f.*, кана́л -у *m.*: ***tear ducts*** сьлёзныя прато́кі

**ductile** [ˈdʌktəl] adj. 1. цягу́чы (*пра мэта́л*). 2. гну́ткі, ко́ўкі. 3. пада́тлівы, пада́тны

**ductility** [dʌkˈtɪləti] n., pl. **-ties** 1. цягу́часьць *f.* 2. гну́ткасьць, ко́ўкасьць *f.* 3. пада́тнасьць, пада́тлівасьць *f.*

**dud I** [dʌd] n. 1. неўзарва́ная бо́мба. 2. Figur. неэфэкты́ўны чалаве́к, не́шта нява́ртаснае; няўда́ча *f.*

**dud II** [dʌd] n. адзе́ньне *n.*, лахманы́ *pl.*

**dude** [du:d] n. фарсу́н -а́ *m.*, франт -а *m.*

**due** [du:] – adj. 1. нале́жны; заслу́жаны; адпаве́дны: ***with due respect*** з нале́жнай паша́най; ***the due reward*** нале́жная ўзнагаро́да. 2. які́ нале́жыцца, нале́жны: ***the money due him for his work*** гро́шы, які́я нале́жацца яму́ за пра́цу. 3. тэрміно́вы: ***The train is due in ten minutes*** Цягні́к паві́нен прыйсьці́ за дзе́сяць хві́лін

– n. належнае, заслужанае *n.*

– adv. дакладна; проста: ***The wind is due east*** Вецер дзьме проста на ўсход

• ***due to*** дзеля, выкліканы *чым*, ёсьць прычынай *чаго*: ***due to circumstances*** дзеля абставінаў

• ***dues*** сяброўскія складкі, аплата

• ***Give a person his due*** Аддай чалавеку належнае

• ***in due time*** у свой час, сваім часам

**duel** [ˈdu:əl] – n. 1. двубо|й -ю *m.*, дуэль *f.* 2. змаганьне *n.*

– v.i. біцца на двубоі, ісьці на двубой

**duet** [duˈet] n. дуэт -у *m.*

**dugout** [ˈdʌgaʊt] n. 1. зямлянка *f.*, сховішча ў падкопе, бліндаж -а *m.* 2. човен, выдаўблены з калоды

**duke** [du:k] n. 1. князь. 2. гэрцаг -а *m.*

**dukedom** [ˈdu:kdəm] n. 1. княства, гэрцагства *n.* 2. тытул князя ці гэрцага

**dulcimer** [ˈdʌlsɪmər] n. цымбалы *pl. only*

**dull** [dʌl] – adj. 1. тупы: ***a dull knife*** тупы нож. 2. невыразны, памерклы, няяркі, цьмяны; хмарны, пахмурны, прыглушаны: ***a dull sound*** прыглушаны гук; ***dull-yellow*** цьмяна-жоўты. 3. тупы (*розум*), дурны. 4. слабы (*зрок, слых*). 5. нудны; гнятлівы, нецікавы; прыгнечаны, сумны

– v.t. тупіць

– v.i. тупіцца, ступляцца

**dullard** [ˈdʌlərd] n. тупіц|а -ы *m. & f.*, дур|ань -ня *m.*, дурніца, нудны чалавек

**dully** [ˈdʌli] adv. 1. тупа. 2. невыразна; вяла, цьмяна. 3. нудна, сумна, прыгнечана; нецікава

**duly** [ˈdu:li] adv. 1. належным спосабам; як належыцца, як трэба; адпаведна. 2. колькі трэба, колькі належыцца. 3. своечасова, упару, учас

**dumb** [dʌm] adj. 1. нямы. 2. бязмоўны; маўклівы. 3. Informal неразумны, бязглузды; дурны

**dumbfound** [ˌdʌmˈfaʊnd] v.t. 1. ашаламляць, аглушаць. 2. бянтэжыць

**dumbfounded** [ˌdʌmˈfaʊndɪd] adj. аслупянелы; зьнямелы, ашаломлены, агаломшаны

**dumbness** [ˈdʌmnəs] n. 1. немата *f.* 2. зьняменьне, аняменьне *n.*

**dummy** [ˈdʌmi] – n., pl. **-mies** 1. манекен -а, макет -а *m.*, мадэль *f.* 3. Print. макет -у *m.*, папярэдні ўзор, пробны экзэмпляр. 4. падстаўная асоба. 5. Informal дур|ань -ня *m.*, дурыл|а -ы *m. & f.*, ёлуп|ень -ня, балван -а *m.*

– adj. падроблены, несапраўдны

**dump** [dʌmp] – v. 1. скідаць у кучу, звальваць. 2. выкідаць, адкідаць

– n. 1. звалка *f.*: ***garbage dump*** сьметнік. 2. запасы амуніцыі; ваенны склад. 4. Sl. занядбаны, брудны дом; дзіра *f.*

**dumping** [ˈdʌmpɪŋ] n. 1. звал -у *m.* 2. дэмпінг -у *m.*, дэмпінгавы экспарт

**dumpling** [ˈdʌmplɪŋ] n. клёцка, галка *f.*

**dump truck** самазвал -а *m.*

**dun I** [dʌn] – n. 1. назольны крэдытор. 2. напорыстае дамаганьне звароту даўгоў

– v.t. напорыста дамагацца звароту даўгоў

– v.i. дакучаць, назаляць

**dun II** [dʌn] – adj. невыразны, шэрабрунатны, шэра-карычневы

– n. цьмяны шэра-брунатны колер

**dunce** [dʌns] n. 1. тупіц|а -ы *m.& f.* 2. дур|ань -ня *m.*

**dune** [du:n] n. дзюна *f.*

**dung** [dʌŋ] – n. 1. памёт, кал -у *m.* 2. гно|й -ю *m.*

– v.t. угнойваць, класьці гной

**dungeon** [ˈdʌndʒən] n. цямніца *f.*; падзямельле *n.*, астрог -у *m.*

**dunk** [dʌŋk] v.t. мачаць, абмокваць

**duo** [ˈdu:oʊ] n. 1. дуэт -у *m.* 2. пара *f.*

**duodecimal** [ˌdu:oʊˈdesɪməl] – n. дванаццатая частка

– adj. дванаццацілічны

**duodenum** [ˌdu:əˈdi:nəm] n., pl. **-na** or **-nums** дванаццаціперстая кішка

**dupe** [du:p] – n. 1. абдураная асоба. 2. разявак|а -і *m. & f.*, дурніца *m. & f.*

– v.t. ашукваць, абдурваць

**duplex** [ˈdu:pleks] – adj. падвойны

– n. двухкватэрны дом

**duplicate** [ˈdu:plıkeıt] – adj. 1. двайны́; падво́ены; адно́лькавы. 2. запасны́; падво́йны: ***duplicate keys*** запасны́я ключы́
– n. ко́пія *f.*; дуплiка́т -у *m.*: ***in duplicate*** у двух экзэмпля́рах
– v.t. [ˈdu:plıkət] капіява́ць, рабі́ць ко́пію, падво́йваць

**duplication** [ˌdu:plıˈkeıʃən] n. 1. падво́йваньне *n.* 2. размно́жваньне *n.*

**duplicity** [duˈplısəti] n. 1. двулі́чнасьць *f.* 2. зман -у *m.*

**durability** [ˌdʊrəˈbıləti] n. трыва́ласьць, даўгаве́чнасьць *f.*

**durable** [ˈdʊrəbəl] adj. трыва́лы

**duration** [duˈreıʃən] n. працяг часу, праця́гласьць, трыва́ньне *n.*: ***for the duration*** на працягу́: ***of short duration*** нядо́ўгатрыва́лы

**duress** [dʊˈres] n. 1. ціск, прыму́с -у *m.* 2. пагро́за *f.*

**during** [ˈdɜ:rıŋ] prep. 1. на працягу́. 2. у ча́се: ***During the night the rain turned to snow*** Уначы́ дождж перайшо́ў у сьнег

**dusk** [dʌsk] n. 1. зьмярка́ньне *n.*, змрок -у *m.*; су́танкі *pl. only*, суто́ньне *n.* 2. змро́чнасьць, пану́расьць *f.*

**dusky** [ˈdʌski] adj. 1. цемнава́ты, чарня́вы; цьмя́ны. 2. пану́ры

**dust** [dʌst] – n. 1. пыл -у *m.* 2. Bot. пылiо́к -ку́ *m.* 3. аста́нкі, парэ́шткі *pl. only*, прах -у *m.*
– v. 1. сьціра́ць, зьмята́ць пыл. 2. пасыпа́ць (*мукою, цу́крам, пе́рцам*); апыля́ць. 3. запы́львацiь (-ца), забру́джвацiь (-ца)
• ***bite the dust*** а) упа́сьці мёртвым *або́* пара́неным. б) быць перамо́жаным *або́* мо́цна прыні́жаным
• ***gather dust*** зьбіра́ць пыл; быць занядба́ным
• ***throw dust in one's eyes*** пушча́ць пыл у во́чы

**dustbin** [ˈdʌstbın] n., Brit. скры́ня для сьме́цьця

**duster** [ˈdʌstər] n. 1. ану́ча для выціра́ньня пы́лу. 2. жано́чы хала́цік, пы́льнік -а *m.*

**dust pan** шу́флік для сьме́цьця

**dusty** [ˈdʌsti] adj. 1. запы́лены. 2. як пыл. 3. сівава́ты

**Dutch** [dʌtʃ] – adj. галя́ндзкі
– n. 1. галя́ндiзец -ца *m.*, галя́ндка *f.* 2. галя́ндзкая мо́ва
• ***dutch treat*** ко́жны пла́ціць сам за сябе́ (*у рэстара́не*)

**dutiable** [ˈdu:tiəbəl] adj. які́ падлягае мы́тнай апла́це

**dutiful** [ˈdu:tifəl] adj. 1. паслухмя́ны, адда́ны. 2. які́ вынікае з абавя́зку

**duty** [ˈdu:ti] n., pl. **-ties** 1. абавя́зiак -ку *m.*: ***She has a strong sense of duty*** У яе́ мо́цнае пачуцьцё абавя́зку. 2. нале́жная паша́на, паслухмя́насьць, ува́жлівасьць *f.* 3. мы́та *n.* 4. дыжу́рства *n.*, дыжу́р -у *m.*
• ***off duty*** не на пра́цы, не на слу́жбе
• ***on duty*** на слу́жбе, на дыжу́рстве

**duty-free** [ˌdu:tıˈfri:] adj. зво́льнены ад мы́та, бязмы́тны

**duvet** [duˈveı] n. пяры́на, ко́ўдра *f.*

**dwarf** [dwɔ:rf] – n., pl. **dwarfs** or **dwarves** [dwɔ:rvz] ка́рлік -а *m.*
– adj. ка́рлікавы

**dwarfish** [ˈdwɔ:rfıʃ] adj. ка́рлікавы, мало́га ро́сту, нізкаро́слы

**dwell** [dwel] v.i. **dwelt** or **dwelled** 1. жыць, прабыва́ць. 2. до́ўга пра што-н. ду́маць, гавары́ць: ***Let's not dwell on the differences*** Дава́йце не затрымо́ўвацца на нязго́дах

**dweller** [ˈdwelər] n. жыха́р -а́ *m.*

**dwelling** [ˈdwelıŋ] n. 1. дом -а *m.*; жыльлё, жытло́ *n.* 2. месца пражыва́ньня

**dwindle** [ˈdwındəl] – v.i. 1. ме́ншаць, зьменша́цца, тра́ціць ва́ртасьць: ***The resources dwindled*** Рэсу́рсы зьме́ншыліся на нішто́. 2. паніжа́цца; зыхо́дзіць, спада́ць
– v.t. зьменша́ць: ***Drought has dwindled the crops*** За́суха зьме́ншыла ўраджа́й

**dye** [daı] – n. фа́рба *f.*; фарбава́льнік -а *m.* (*рэ́чыва*)
– v.t. фарбава́ць
– v.i. фарбава́цца

**dyeing** [ˈdaɪɪŋ] n. фарбава́ньне *n.*

**dyer** [ˈdaɪər] n. фарбава́льшчык -а *m.*, фарбава́льшчыца *f.*

**dyestuff** [ˈdaɪstʌf] n. фарбава́льнае рэ́чыва

**dying** [ˈdaɪɪŋ] – adj. 1. памíра́ючы, прысьме́ртны. 2. які́ замíра́е, зацíха́е; які́ канча́ецца, адыхо́дзíць: ***the dying day*** адыхо́дзячы дзень
– n. 1. сьмерць *f.*, памíра́ньне *n.* 2. замíра́ньне, зацíха́ньне *n.*

**dynamic** [daɪˈnæmɪk] – adj. 1. дынамíчны. 2. акты́ўны, энэргíчны
– n. дынамíчнасьць, дзе́йная сíла

**dynamics** [daɪˈnæmɪks] n. дына́мíка *f.*

**dynamite** [ˈdaɪnəmaɪt] – n. дынамíт -у *m.*
– v.t. падарва́ць дынамíтам

**dynamo** [ˈdaɪnəmoʊ] n., pl. **-mos** 1. дына́ма *n.*, электры́чны генэра́тар. 2. Informal энэргíчны чалаве́к

**dynasty** [ˈdaɪnəsti] n., pl. **-ties** 1. дына́стыя *f.*

**dyne** [daɪn] n. Phys. ды́на *f.*, (*адзíнка вымярэ́ньня сíлы*)

**dysentery** [ˈdɪsənteri] n. дызэнтэры́я, крыва́ўка *f.*

**dyslexia** [dɪsˈleksiə] n. дысьле́ксíя *f.*

**dystrophy** [ˈdɪstrəfi] n. дыстрафíя, недара́зьвíтасьць *f.*

# E

**E, e** [i:] n.,pl. **E's, e's** [i:z] 1. *пятая літара ангéльскага альфабэ́ту.* 2. Mus. мі (*нóта*)
**each** [i:tʃ] adj., pron. кóжны, кáжны
**each other** адзíн аднагó, аднó аднагó, аднá аднý
**eager** [ˈi:gər] adj. нецярплíвы; пáлкі; заўзя́ты, шчы́ры (*да прáцы*): ***to be eager*** мóцна хацéць; шчы́ра старáцца
• ***eager beaver*** старáнны, працавíты чалавéк
**eagerness** [ˈi:gərnes] n. запáл -у *m.*; заўзя́тасьць, старáннасьць *f.*
**eagerly** [ˈi:gərli] adv. з запáлам, старáнна
**eagle** [ˈi:gəl] n. арóл арлá *m.*
**eaglet** [ˈi:glət] n. арляня́, *n., pl.* арляня́ты
**ear I** [ɪr] n. 1. вýха *n., pl.* вýшы. 2. слы́х -у *m.* (*да мýзыкі*): ***I have no ear for music*** Я ня мáю слы́ху. 3. вýшка (*збанкá*)
• ***be all ears,*** Informal слýхаць вéльмі ўвáжна
• ***external ear*** знадвóрнае вýха
• ***give an ear*** слýхаць *кагó-чагó*
• ***inner ear*** нутранóе вýха
• ***middle ear*** сярэ́дняе вýха
• ***play by ear*** а) граць на слы́х (*бяз нóтаў*). б) Informal. арыентавáцца на хадý
**ear II** [ɪr] – n. 1. кóлас -а *m., pl.* калáсы́, coll. калóсьсе *n.*; ***ear of rye*** жы́тні кóлас; ***ear of corn*** катáх кукурýзы; суквéцьце кукурýзы
– v.i. каласíцца, каласавáць
**earache** [ˈɪreɪk] n. вушны́ боль
**eardrum** [ˈɪrdrʌm] n. 1. бубян|éц -цá *m.* 2. сярэ́дняе вýха
**earflap** [ˈɪrflæp] n., pl. навýшнікі ў шáпцы
**earl** [ɜ:rl] n. граф -а *m.* (*брытáнскі*)
**earlap** [ˈɪrlæp] n. 1. мóчка вýха. 2. знадвóрнае вýха, бáчная чáстка вýха
**early** [ˈɜ:rli] **-lier, -liest** – adv. рáна: ***early in the day*** на пачáтку дня, зрáньня; ***too early*** зарáна
– adj. рáньні: ***early history*** гістóрыя рáньніх вякóў
**early bird** рáньняя птýшка
**earmuffs** [ˈɪrmʌfs] n., pl. навýшнікі
**earn** [ɜ:rn] v.t. 1. зарабля́ць. 2. заслугóўваць, быць вáртым. 3. здабывáць (*пашáну*)
**earnest I** [ˈɜ:rnɪst] – adj. 1. павáжны; шчы́ры, старáнны. 2. вáжны
– n. павáжнасьць *f.*
• ***in earnest*** павáжна, сур'ёзна, шчы́ра
**earnest II** [ˈɜ:rnɪst] n. 1. задáт|ак -ку *m.* 2. гарáнтыя *f.*
• ***earnest money*** задáтак
**earnings** [ˈɜ:rnɪŋz] n., pl. зарóб|ак -ку *m.*, часьцéй *pl.* зарóбкі; прыбы́ткі
**earphone** [ˈɪrrfoʊn] n. навýшнік (*тэлефóнны, тэлеграфны, радыё*), галаўны́ тэлефóн
**earring** [ˈɪrɪŋ] n. завушнíца *f.*
**earth** [ɜ:rθ] – n. 1. зямля́ *f.*; зямнáя кýля 2. сýша *f.* 3. глéба *f.* 4. Electr. зазямлéньне *n.*

– v.t. 1. зазямляць. 2. прысыпаць, абсыпаць (*зямлёю*). 3. заганяць у нару
– v.i. хавацца ў зямлю
• ***come back to earth*** спусьціцца на зямлю, перастаць марыць
**earthen** [ˈɜ:rθən] adj. 1. земляны (*вал*). 2. гліняны
**earthenware** [ˈɜ:rθənwer] – n. 1. гліняны посуд. 2. абпаленая гліна
– adj. гліняны, з абпаленае гліны
**earthly** [ˈɜ:rθli] adj. зямны (*не нябесны*)
**earthquake** [ˈɜ:rθkweɪk] n. землятрус -у *m.*
**earthworm** [ˈɜ:rθwɜ:rm] n. дажджавы чарвяк, чырвоны земляны чарвяк
**earthy** [ˈɜ:rθi] adj.1. зямны (*колер, пах*). 2. зямны, сьвецкі, не духоўны. 3. натуральны, просты. 4. грубаваты: ***earthy humor*** грубавата-вясёлыя жарты
**earwax** [ˈɪrwæks] n. вушны воск
**ease** [i:z] – n. 1. спакой -ю *m.* 2. лёгкасьць *f.*: ***He writes with great ease*** Ён піша зь вялікай лёгкасьцю. 3. свабода *f.*, натуральнасьць
– v.t. 1. супакойваць. 2. палягчаць, зьмяншаць (*боль*). 3. паслабляць, адпускаць (*пояс*). 4. павольна, асьцярожна рухаць, перасоўваць
• ***at ease*** а) спакойна, выгодна. б) вольна: ***to stand at ease*** стаяць вольна
**easel** [ˈi:zəl] n. мальбэрт -а *m.*
**easily** [ˈi:zɪli] adv. 1. лёгка; без напругі. 2. безумоўна, бясспрэчна. 3. вельмі праўдападобна
**east** [i:st] – n. усход -у *m.*
– adj. усходні
– adv. на ўсход, з усходу, на ўсходзе: ***east of*** на ўсход ад
• ***the East*** а) усходняя частка Канады й Злучаных Штатаў. б) Усход, азіяцкія краіны. в) былы Савецкі Саюз і ягоныя ўсходнеэўрапейскія сатэліты
**eastbound** [ˈi:stbaʊnd] adj. які ідзе *або* вядзе на ўсход (*пра кірунак*)
**Easter** [ˈi:stər] n. Вялік|дзень -адня *m.*
**eastern** [ˈi:stərn] adj. 1. усходні, з усходу. 2. з усходняй часткі *або* ўва ўсходняй часткі краю. 3. з краёў *або* ў краёх Азіі (Усходу)
**eastward** [ˈi:stwərd] adv., adj. на ўсход; усходні: ***The eastward slope of the hill*** усходні схон узгорка
**eastwardly** [ˈi:stwərdli] adj., adv. 1. на ўсход; усходні. 2. з усходу (*пра вецер*)
**eastwards** [ˈi:stwərdz] adv. на ўсход
**easy** [ˈi:zi] – adj. 1. лёгкі: ***easy terms*** лёгкія ўмовы. 2. спакойны, бестурботны. 3. лагодны, малапатрабавальны. 4. падаўкі на ўплыў, даверлівы; згаворлівы. 5. свабодны, прыемны, натуральны. 6. вольны (*вопратка*), просты (*стыль паводзінаў*), свабодны; павольны: ***an easy pace*** павольная хада
– adv. лёгка, спакойна; павольна; выгодна
**easy chair** мяккае крэсла, фатэль
**easygoing** [ˌi:ziˈgoʊɪŋ] adj. 1. бестурботны. 2. падатлівы, памяркоўны
**eat** [i:t] v.t., **ate, eaten, eating** 1. есьці. 2. падточваць, грызьці (*пра шашаля*), пажыраць, зьнішчаць. 3. разьядаць; праядаць, (*пра моль, іржу*), прадзіраўліваць. 4. Informal грызьці, непакоіць: ***What's eating him?*** Што яго грызе?
• ***eat one's words,*** Informal забраць назад свае словы
• ***eat up*** а) зьесьці ўсё. б) паглынуць (*ашчаднасьці*)
**eatable** [ˈi:təbəl] adj. ядомы, прыдатны да яды (*спажываньня*)
**eaves** [i:vz] n., pl. 1. навісь страхі; падстрэш|ак -ка *m.*; капл|ёж -яжа *m.*
**eavesdrop** [ˈi:vzdrɑ:p] – v.i. падслухоўваць
– n. 1. капёж капяжу *m.* 2. зямля пад навісьсю страхі (*куды сьцякае капёж*), падстрэшша *n.*
**eave trough** or **spout** рына *f.*, вадасьцёк на даху
**ebb** [eb] – n. 1. адплыіў -ву *m.* (*марскі*). 2. упад|ак -ку *m.*
– v.i. 1. адплываць, спадаць (*пра ваду*). 2. зьмяншацца, меншаць, слабнуць, слабець

• ***ebb and flow*** а) адплы́вы й прыплы́вы мо́ра. б) уда́чы й няўда́чы (*у жыцьці́*)

**ebony** [ˈebəni] – n., pl. **-onies** эбэ́навае дрэ́ва (*матэрыя́л і дрэ́ва*)
– adj. эбэ́навы

**eccentric** [ɪkˈsentrɪk] – adj. 1. незвыча́йны; дзіва́цкі, дзі́ўны; эксцэнтры́чны. 2. Tech. эксцэнтры́чны, а) які́я ня ма́юць супо́льнага цэ́нтру (*пра ко́лы*). б) які́ ня ру́хаецца па ко́ле
– n. 1. дзіва́к -а́ *m.*, эксцэнтры́чны чалаве́к. 2. Tech. эксцэ́нтрык -а *m.*

**eccentricity** [ˌeksenˈtrɪsəti] n., pl. **-ties** 1. дзіва́цкасьць *f.*; дзіва́цтва *n.* 2. эксцэнтры́чнасьць *f.*

**ecclesiastic** [ɪˌkli:ziˈæstɪk] – adj. царко́ўны; духо́ўны; клерыка́льны
– n. духо́ўнік -а *m.*, духо́ўная асо́ба, духо́ўн|ы -ага *m.*

**ecclesiastical** [ɪˌkli:ziˈæstɪkəl] adj. царко́ўны, духо́ўны (*супрацьлеглы да сьве́цкага*)

**echo** [ˈekoʊ] – n., pl. **echoes** рэ́ха *n.*; адгало́с|ак -ку, во́дгалас -у *m.*; во́дгульле *n.* 2. перайма́ньне, насьле́даваньне, імітава́ньне *n.*
– v. 1. адбіва́цца, адгука́цца (*рэ́хам*). 2. паўтара́ць; перайма́ць, насьле́даваць. 3. го́ласна адзыва́цца (*пра гу́кі*)

**eclipse** [ɪˈklɪps] – n. зацьме́ньне *n.*, за́цьма *f.*: ***lunar eclipse*** зацьме́ньне ме́сяца; ***solar eclipse*** зацьме́ньне со́нца; ***total eclipse*** по́ўнае зацьме́ньне
– v.t. зацьмява́ць

**ecliptic** [ɪˈklɪptɪk] – n. экліптыка *f.* (*со́нца*)
– adj. 1. экліпты́чны. 2. зацьме́ньневы

**ecology** [ɪˈkɑ:lədʒi] n., Biol., Sociol. экалёгія *f.*

**economic** [ˌi:kəˈnɑ:mɪk] adj. 1. эканамі́чны. 2. гаспада́рскі. 3. ашча́дны; гаспада́рны, гаспада́рлівы, экано́мны

**economical** [ˌi:kəˈnɑ:mɪkəl] adj. *гл.* **economic** 1., 3.

**economics** [ˌi:kəˈnɑ:mɪks] n. 1. экано́міка *f.* (*наву́ка*). 2. стан наро́днае гаспада́ркі

**economy** [ɪˈkɑ:nəmi] n., pl. **-mies** 1. ашча́днасьць, гаспада́рнасьць *f.* 2. заашча́джанае *n.*; экано́мія *f.* 3. кіраўні́цтва *n.*

**ecstasy** [ˈekstəsi] – n., pl. **-sies** 1. захапле́ньне *n.*, асало́да, ра́дасьць *f.* 2. экста́з, транс -у *m.*
– v.t. захапля́ць, прыво́дзіць у экста́з

**eddy** [ˈedi] – n., pl. **-dies** 1. малы́ вір (*вады́, паве́тра*), віхі|о́р -ру́ *m.* 2. клубы́ (*ды́му, імглы́, ду́мак*)
– v. круці́ц|ь (-ца); бурлі́ць; вірава́ць

**Eden** [ˈi:dən] n. 1. ра|й -ю *m.*, эдэ́мскі сад (*біблі́йны*). 2. стан ідэа́льнага шча́сьця

**edge** [edʒ] – n. 1. кра|й -ю *m.*, краёч|ак -ка *m.*; кант -а *m.*: ***the edge of a forest*** край ле́су, узьле́сак, узьле́сьсе; ***the edge of a cliff*** край стро́мы. 2. вастрыё, істрыво́, лязо́ *n.* (*нажа́, сяке́ры*) 3. Informal перава́га *f.*: ***to have an edge on somebody*** мець над кімсь перава́гу

• ***on edge*** а) устрыво́жаны; расхваля́ваны. б) нецярплі́вы

• ***set on edge*** а) устрыво́жыць, расхвалява́ць. б) узбудзі́ць нецярплі́васьць
– v.t. 1. вастры́ць. 2. абклада́ць, абрамля́ць (*гра́дку, даро́жку*)
– v.i. 1. ма́ла-пама́лу падсо́ўвац|ь (-ца) 2. праціска́цца бо́кам

**edible** [ˈedəbəl] adj. ядо́мы, прыда́тны да яды́

**edict** [ˈi:dɪkt] n. пастано́ва-зако́н, ука́з -у *m.*, эды́кт -у *m.*

**edifice** [ˈedɪfɪs] n. гмах -у *m.* ; буды́ніна *f.*

**edit** [ˈedɪt] v.t. 1. рэдагава́ць, падрыхто́ўваць да выда́ньня (*тэкст*). 2. быць рэда́ктарам: ***edited by*** а) пад рэда́кцыяй *каго́.* б) перагле́джаны, змантава́ны *кім.* 3. перагляда́ць і мантава́ць фільм

• ***edit out*** выкрасьля́ць; вычы́рквацъ

**edition** [ɪˈdɪʃən] n. выда́ньне *n.*

**editor** [ˈedɪtər] n. рэда́ктар -а *m.*

**editorial** [ˌedɪˈtɔ:riəl] – n. перадавы́ арты́кул, рэдакцы́йны арты́кул

– adj. рэда́ктарскі, рэдакцы́йны: ***editorial board (staff)*** рэдакцы́йная кале́гія, рэдкале́гія

**editor in chief** гало́ўны рэда́ктар (*газэ́ты, ча́сапісу*)

**educate** [ˈedʒəkeɪt] v.t. 1. а) вучы́ць, аду-ко́ўваць. б) вучы́ць, навуча́ць (*фа́ху, уме́льства*). 2. пасыла́ць у шко́лу, дава́ць асьве́ту, выхава́ньне

**educated** [ˈedʒəkeɪtəd] adj. асьве́чаны; адукава́ны

**education** [ˌedʒəˈkeɪʃən] n. выхава́ньне, узгадава́ньне *n.*; адука́цыя *f.*; асьве́та *f.*

**educational** [ˌedʒəˈkeɪʃənəl] adj. навуча́льны (*фі́льм, дапамо́жнік*); адукацы́йны (*узро́вень*)

**educator** [ˈedʒəkeɪtər] n.1. выхава́льнік, узгадава́льнік, наста́ўнік -а *m.*, наста́ўніца *f.* 2. аўтарытэ́т у галіне́ адука́цыі

**eel** [i:l] n. вуг|о́р -ра́ *m.*

**efface** [ɪˈfeɪs] v.t. 1. сьціра́ць, заціра́ць (*на́піс*). 2. Informal сьціра́цца: ***to efface oneself*** стара́цца быць незаўва́жаным, трыма́цца ў цяні́

**effect** [ɪˈfekt] – n. 1. вы́нік, рэзульта́т -у *m.* 2. ва́жкасьць, зна́чнасьць *f.* (*прамо́вы*). 3. уплы́ў -ву *m.*; эфэ́кт -у *m.* 4. ура́жаньне *n.*

– v.t. 1. выкліка́ць (*зьме́ны*). 2. рабі́ць ура́жаньне

• ***effects*** асабі́стая маёмасьць, рэ́чы

• ***for effect*** напака́з, разьлі́чаны на эфэ́кт

• ***of no effect*** бескары́сны, бяз вы́ніку

• ***to the effect*** з мэ́тай

**effective** [ɪˈfektɪv] adj. 1. уда́лы, эфэкты́ўны. 2. дзе́йсны, які́ ма́е сі́лу (*пра зако́н*): ***to become effective*** набыва́ць сі́лу. 3. які́ ствара́е ўра́жаньне, эфэ́ктны. 4. гато́вы да бо́ю (*жаўне́р*)

**effeminacy** [ɪˈfemɪnəsi] n. жано́цкасьць (*у мужчы́ны*), немужчы́нскасьць, сьпе́шчанасьць, расьпе́шчанасьць *f.*

**effeminate** [ɪˈfemɪnət] adj. жанчы́нападо́бны (*пра мужчы́ну*), расьпе́шчаны; не па-мужчы́нску кво́лы, далі-ка́тны

**efficiency** [ɪˈfɪʃənsi] n., pl. **-cies** спра́ўнасьць, прадукцы́йнасьць *f.*

**efficient** [ɪˈfɪʃənt] adj. спра́ўны, уме́лы, эфэкты́ўны; прадукцы́йны (*пра машы́ну*)

**effort** [ˈefərt] n. 1. намага́ньне *n.*, вы́сі|лак -ку *m.*, стара́ньне *n.* 2. дасягне́ньне *n.*, здабы́т|ак -ку *m.*: ***literary and artistic efforts*** літарату́рныя й маста́цкія дасягне́ньні

**effrontery** [ɪˈfrʌntəri] n, pl. **-teries** наха́бнасьць, бессаро́мнасьць *f.*

**effulgence** [ɪˈfʌldʒəns] n. я́снасьць *f.*, зьзя́ньне *n.*; прамяні́стасьць *f.*

**effulgent** [ɪˈfʌldʒənt] adj. бліску́чы, прамяні́сты

**effuse** [ɪˈfju:s] v. распаўсю́джваць; выдзяля́ць (*ва́дкасьць, паве́тра*); вылуча́ць (*пах*)

**effusion** [ɪˈfju:ʒən] n. 1. вылі́ва́ньне: ***the effusion of blood*** крывазьлі́цьцё. 2. празьме́рная адкры́тасьць, бурлі́вае выяўле́ньне сваі́х пачу́цьцяў. 3. Geol. выліцьцё ма́гмы, эфу́зія *f.*

**effusive** [ɪˈfju:sɪv] adj. 1. шчы́ры, адкры́ты; які́ бурлі́ва выяўля́е сваё́ пачу́цьці. 2. Geol. эфузі́ўны

**e.g.** [ˌi:ˈdʒi:] adv. (lat. exempli gratia) напр., пр., напры́клад, пры́кладам

**egg I** [eg] n. я́йка, яйко́ *n.*

• ***put all one's eggs in one basket*** рызыкава́ць усі́м, што ма́еш

**egg II** [eg] v.t. падбухто́рваць

**eggplant** [ˈegplænt] n. баклажа́н -а *m.*

**eggshell** [ˈegʃel] n. шкарлу́піна я́йка; coll. шкарлупі́ньне *n.*

**egoism** [ˈi:goʊˌɪzəm] n. 1. эгаі́зм -у *m.*, эгаісты́чнасьць *f.*, сябелю́бства *n.* 2. зазна́йства *n.*

**Egyptian** [ɪˈdʒɪpʃən] – adj. 1. эгі́пэцкі. 2. Obsol. цыга́нскі

– n. 1. эгіпця́нін -а *m.*, эгіпця́нка *f.*, *pl.* эгіпця́не. 2. мо́ва старажы́тных эгіпця́наў. 3. Obsol. цыга́н -а́ *m.*, цыга́нка *f.*

**eider** [ˈaɪdər] n. га́га *f.* (*паля́рная ка́чка*)

**eider down** 1. гага́чы пух. 2. пухо́вая ко́ўдра

**eight** [eɪt] n., adj. 1. во́сем. 2. васьмё́рка

*f.* (*ігра́льная ка́рта*)
**• *eight times*** васьма́ (*у табліцы мно́жаньня*)
**eighteen** [ˌeɪˈtiːn] n. васямна́ццаць
**eighteenth** [ˌeɪˈtiːnθ] adj. васямна́ццаты
**eighth** [eɪtθ] – adj. во́сьмы
– n. а) во́сьм|ы -ага *m.* б) во́сьмая ча́стка
**eight-hour** adj. васьмігадзі́нны
**eight hundred** восемсо́т
**eight-hundredth** васьмісо́ты
**eightieth** [ˈeɪtiəθ] adj. васьмідзяся́ты
**eight-month,** adj. васьміме́сячны
**eighty** [ˈeɪti] n., pl. **eighties** во́семдзесят
**eight-year (old)** васьмігадо́вы
**either** [ˈiːðər] – adj., pron. 1. той або́ другі́, хоць які́. 2. ка́жны, ко́жны (*з двух*)
– conj.: ***either … or*** або́ … або́
**eject** [ɪˈdʒekt] v.t. 1. выкіда́ць, выпіха́ць: ***The volcano ejected lava and ashes*** Вулька́н выкіда́ў ля́ву й по́пел. 2. выганя́ць
**elaborate** [ɪˈlæbərət] – adj. 1. стара́нна распрацава́ны. 2. складáны, скла́дзены з шматлі́кіх дэта́ляў. 3. вы́танчаны, дасканáлы
– v.t. [ɪˈlæbəreɪt] 1. дакла́дна распрацо́ўваць. 2. выпрацо́ўваць
– v.i. раска́зваць *або́* апі́сваць ве́льмі падрабя́зна
**elapse** [ɪˈlæps] v.i. міна́ць, прахо́дзіць (*пра час*)
**elastic** [ɪˈlæstɪk] – adj. 1. элясты́чны. 2. пру́гкі, спружы́ністы, пру́ткі: ***an elastic step*** пру́гкі крок
– n. гу́мка *f.*
**elasticity** [ˌiːlæsˈtɪsəti] n. 1. элясты́чнасьць *f.* 2. гну́ткасьць, пру́гкасьць, пру́ткасьць *f.*
**elate** [ɪˈleɪt] v.t. усьцеша́ць, ра́даваць
**elated** [ɪˈleɪtəd] adj. усьце́шаны, узра́даваны, у ра́дасна-ўзбу́джаным настро́і
**elation** [ɪˈleɪʃən] n. прыўзьня́ты настро́й, ра́дасная ўзбу́джанасьць
**elbow** [ˈelboʊ] – n. 1. ло́к|аць -ця *m.* 2. кале́на *n., pl.* кале́ны (*для спалучэ́ньня тру́баў*)
**• *at one's elbow*** блі́зка да не́чага, пад руко́й
**• *up to the elbow*** а) ве́льмі заня́ты. б) мо́цна заме́шаны *або́* пераня́ты спра́вай
– v.t. расшту́рхваць ло́кцямі
**elder** [ˈeldər] – adj. 1. старэ́йшы (*ве́кам*), ста́ршы (*ра́нгам*). 2. ране́йшы (*час*)
– n. 1. старэ́йш|ы -ага *m.*, старэ́йшая *f.* 2. старшын|я́ -і *m.*, дзяржа́ўны муж. 3. пра́шчур, дзед -а *m.* 4. царко́ўны ста́раста
**elderly** [ˈeldərli] adj. пажылы́, у ве́ку
**eldest** [ˈeldɪst] adj. найстарэ́йшы, са́мы стары́
**elect** [ɪˈlekt] – v.t. 1. абіра́ць *каго-што́*, выбіра́ць галасава́ньнем. 2. выбіра́ць
– adj. 1. абра́ны, але яшчэ́ не пераня́ўшы ўла́ду (*фу́нкцыю*). 2. абра́ны (*і Бо́гам*)
**election** [ɪˈlekʃən] n. 1. вы́бар -у *m.* 2. вы́бары *pl. only*: ***general election*** усеагу́льныя вы́бары. 3. Rel. выбра́ньне (*Бо́жае*)
**elective** [ɪˈlektɪv] adj. 1. вы́барны (*о́рган, паса́да*). 2. які́ ма́е пра́ва галасава́ць. 3. вы́барчы (*пра́ва, сход*). 4. неабавязко́вы (*прадме́т, курс*)
**elector** [ɪˈlektər] n. вы́барц|а -ы, вы́барнік -а *m.*, вы́барніца *f.*
**electric** [ɪˈlektrɪk] adj. электры́чны: ***electric charge*** электры́чны зара́д
**electrician** [ɪˌlekˈtrɪʃən] n. электратэ́хнік, электраманцёр, электрык -а *m.*
**electricity** [ɪˌlekˈtrɪsəti] n. эле́ктрыка, электры́чнасьць *f.*: ***to install electricity*** право́дзіць эле́ктрыку
**electrified** [ɪˈlektrɪfaɪd] adj. электрызава́ны; электрыфікава́ны
**electrify** [ɪˈlektrɪfaɪ] *такс.* **electrize** [ɪˈlektraɪz] v.t. 1. электрызава́ць; электрыфікава́ць. 2. захапля́ць, узбуджа́ць захапле́ньне (*у слухачо́ў, гледачо́ў*)
**electrode** [ɪˈlektroʊd] n. электро́д -а *m.*
**electrolysis** [ˌɪlekˈtrɑːləsɪs] n. электро́ліз -у *m.*
**electromagnetism** [ɪˌlektroʊˈmægnəˌtɪzəm] n. электрамагнэты́зм -у *m.*

**electron** [ɪˈlektrɑ:n] n. электрóн -а *m.*
**electronic** [ɪˌlekˈtrɑ:nɪk] adj. электрóнны; электранíчны
**electronics** [ɪˌlekˈtrɑ:nɪks] n. электрóніка *f.*
**electroplate** [ɪˈlektroupleɪt] – v. гальванізавáць (*пакрывáць срэ́брам*)
– n. гальванізавáны прадмéт
**elegance** [ˈelɪgəns] n. or **elegancy** [ˈelɪgənsi] n., pl. **-cies** 1. элегáнтнасьць, прыгажóсьць *f.* 2. нéшта элегáнтнае, зграбнае, прыгóжае
**elegant** [ˈelɪgənt] adj. элегáнтны, вы́танчаны, які́ адзначáецца дóбрым гýстам: ***elegant furnishings*** элегáнтнае абсталявáньне, мэ́бля *абó* адзéньне
**elegy** [ˈelədʒi] n. элéгія *f.*, жалóбны, сýмны верш
**element** [ˈelɪmənt] n. 1. элемэ́нт -а *m.* (*і хімíчны*); кампанэ́нт, складóвая чáстка. 2. стыхíя *f.*: ***the four elements*** зямля́, вадá, павéтра й агóнь. 3. атачэ́ньне, акружэ́ньне *n.*; асярóдзьдзе *n.*: ***to be in one's element*** быць у сваёй стыхíі
• ***the elements*** а) пачáткі pl.; аснóвы *pl.* (*навýкі*). б) атмасфэ́рныя сíлы
**elementary** [ˌelɪˈmentəri] adj. 1. першапачаткóвы, прóсты, увóдны, аснóўны, элемэнтáрны. 2. Chem. нераскладáльны. 3. пачаткóвы: ***elementary school*** пачаткóвая шкóла
**elephant** [ˈelɪfənt] n. слон сланá *m.* ***elephant cow*** сланíха *f.*
• ***elephant calf*** сланянё *n.*
**elevate** [ˈelɪveɪt] v.t. 1. паднімáць; узьнімáць. 2. павышáць (*рáнгам*). 3. паляпшáць: ***Study elevates the mind*** Вучэ́ньне разьвівáе рóзум. 4. разьвесяля́ць; абуджáць надзéю *абó* гóнар. 5. павышáць (*гóлас*)
**elevated** [ˈelɪveɪtɪd] adj. 1. падня́ты, узьня́ты; высóкі. 2. вéлічны; узьнёслы (*стыль*); узвы́шаны (*мэ́та*). 3. у прыўзьня́тым настрóі; рáдасны; гóрды, які́ ганары́цца
**elevator** [ˈelɪveɪtər] n. 1. ліфт -а *m.* 2. грузапад'ёмнік, элевáтар -а *m.* 3. элевáтар -а *m.* (*для ссыпáньня збóжжа*)
**eleven** [ɪˈlevən] n. адзінáццаць
**eleven-year-old** адзінáццацігадóвы: ***eleven-year-old girl*** адзінáццацігадóвая дзяўчы́нка
**eleventh** [ɪˈlevənθ] adj. адзінáццаты
**elf** [elf] n., pl. **elves** [elvz] 1. Myth. эльф, дамавíк -á *m.* 2. кáрлік -а *m.*
**eligible** [ˈelɪdʒəbəl] adj. 1. той, хто мóжа быць вы́браны *абó* прыня́ты (*у арганізáцыю*); адпавéдна кваліфікавáны; пажадáны, адпавéдны: ***eligible for membership*** які́ мáе прáва быць сябрам. 2. які́ мáе прáва: ***eligible voter*** асóба, якáя мáе прáва галасавáць
**eliminate** [ɪˈlɪmɪneɪt] v.t. 1. адхіля́ць (*небясьпéку*); пазбаўля́цца; выключáць. 2. ня браць пад увáгу, прапушчáць, прапускáць. 3. Math. прывóдзіць да аднагó невядóмага (*раўнáньне*). 4. Physiol. ачышчáць; выдзяля́ць
**elimination** [ɪˌlɪmɪˈneɪʃən] n., 1. адхілéньне *n.* 2. выключэ́ньне *n.* 3. выдзялéньне *n.*
**elk** [elk], n., pl. **elks**, or esp. coll. **elk** лось лася́ *m.*, ласíха *f.*
**ellipse** [ɪˈlɪps] n., Geom. э́ліпс -а *m.*
**elliptical** [ɪˈlɪptɪkəl] adj. эліпты́чны
**elm** [elm] n. вяз -а *m.* (*дрэ́ва*), вяз -у *m.* (*матэрыя́л*)
**elongate** [ɪˈlɔ:ŋgeɪt] – v.t. 1. падаўжáць|ь (-ца); расьця́гваць|ь (-ца)
– adj. 1. падóўжаны. 2. прадóўжаны. 3. Bot. даўгí, вы́цягнуты й вýзкі (*як ліст вярбы́*)
**elope** [ɪˈloup] v.i. 1. уцячы́ з кахáным. 2. зьбéгчы, зьнíкнуць
**eloquence** [ˈeləkwəns] n. 1. красамóўства *n.* 2. красамóўнасьць *f.*
**eloquent** [ˈeləkwənt] adj. 1. красамóўны. 2. вырáзны (*пóзірк*)
**else** [els] – adj. 1. íншы, рóзны: ***somebody else*** нéхта íншы; ***no one else*** больш нікóга. 2. яшчэ́: ***Do you expect anyone else?*** Ці вы яшчэ́ кагó чакáеце? ***What else could I say?*** Што яшчэ́ я мог сказáць?
– adv. 1. інáкш: ***How else?*** Як жа інáкш? ***Hurry, else you will be late*** Сьпяшáйцеся, інáкш спóзьніцеся

**elsewhere** [ˈelshwer] adv. 1. нéдзе ў íншым мéсцы; нéдзе, ў íншае мéсца. 2. яшчэ́ нéдзе

**elucidate** [ɪˈlu:sɪdeɪt] v.t. 1. растлумáчваць, вытлумáчваць. 2. высьвятляць, выясьняць

**elucidation** [ɪˌlu:sɪˈdeɪʃən] n. высьвятлéньне; растлумачэ́ньне *n.*

**elude** [ɪˈlu:d] v.t. 1. пазьбягáць, ухіляцца; уцякáць. 2. не выяўляцца: ***The cause of cancer has eluded all research***Ніякім дóсьледам не ўдалóся вы́явіць прычы́ну рáка

**emaciate** [ɪˈmeɪʃieɪt] v. высу́шваць, мардавáць, зьнясíльваць: ***A long illness had emaciated him*** Дóўгая хварóба зьнясíліла ягó

**emaciated** [ɪˈmeɪʃieɪtɪd] adj. чэ́злы, схуднéлы. вы́сушаны, зьнясíлены (*хварóбай*)

**e-mail** [ˈi:meɪl] – n. 1. электрóнная пóшта. 2. ліст, дасля́ны электрóннай пóштай
– v.t. пасылáць электрóннай пóштай

**emanate** [ˈemәneɪt] v. 1. нéсьціся; разыхóдзіцца: ***Fragrance emanated from the flowers*** Ад кветáк разыхóдзіўся пах. 2. выхóдзіць, пахóдзіць: ***The rumor emanated from Miensk*** Пагалóска прыйшлá зь Мéнску

**emanation** [ˌemәˈneɪʃәn] n. эманáцыя, а) выпраме́ньваньне (*пра сьвятлó, цяплó*). б) Chem. выдзялéньне гáзаў

**emancipate** [ɪˈmænsɪpeɪt] v.t. вызваляць (*зь нявóльніцтва ці нярóўнасьці*)

**emancipation** [ɪˌmænsɪˈpeɪʃәn] n. вызвалéньне *n.* (*ад нявóльніцтва, нярóўнасьці*)

**emasculate** [ɪˈmæskjәleɪt] – v.t. 1. рабíць жанчы́нападóбным; кастравáць; лягчáць, вылягчáць (*жывёліну*). 2. аслабляць (*прамóву, скарацíўшы вáжнае*)
– adj. [ɪˈmæskjәlәt] пазбáўлены сíлы; аслáблены; жанчы́нападóбны

**embalm** [ɪmˈbɑ:m] v.t. 1. бальзамавáць. 2. захóўваць (*у пáмяці*)

**embalmment** [ɪmˈbɑ:mmәnt] n. бальзамавáньне, забальзамавáньне *n.*

**embank** [ɪmˈbæŋk] v.t. ахóўваць нáсыпам, абнóсіць вáлам, запру́джваць

**embankment** [ɪmˈbænkmәnt] n. 1. нáсып -у *m.* 2. абгараджэ́ньне нáсыпам

**embargo** [ɪmˈbɑ:rgoʊ] – n. эмбáрга, *indecl.*, забарóна дзяржáвай увóзу ці вы́вазу: ***to lay an embargo*** накладáць забарóну, забараняць; ***to take off an embargo*** зьняць забарóну
– v.t. 1. накладáць эмбáрга: ***to embargo a ship*** затрымáць карабéль у пóрце. 2. канфіскавáць, рэквізавáць

**embark** [ɪmˈbɑ:rk] – v.i. 1. сядáць, грузíцца (*на карабéль, самалёт*). 2. пачынáць (*нóвую прафэ́сію, спрáву, прадпрыéмства*)
– v.t. грузíць на карабéль (*людзéй, вóйска*)
• ***embark on an adventure*** а) адплывáць у нявéдамае падарóжжа. б) пускáцца ў нявéдамае

**embarrass** [ɪmˈbærәs] – v.t. 1. бянтэ́жыць, сарóміць. 2. абцяжáрваць . 3. ускладняць. 4. заганяць у даўгí
– v.i. сарóмецца, бянтэ́жыцца

**embarrassed** [ɪmˈbærәst] adj. засарóмлены, зьбянтэ́жаны

**embarrassing** [ɪmˈbærәsɪŋ] adj. зьбянтэ́жаны, няёмкі: ***an embarrassing situation*** няёмкае станóвішча

**embarrassment** [ɪmˈbærәsmәnt] n. засарóмленасьць; зьбянтэ́жанасьць, няёмкасьць *f.*

**embassy** [ˈembәsi] n., pl. **-ssies** амбасáда *f.*, пасóльства *n.*

**embed** [ɪmˈbed] v. **(-dd-)** 1. садзíць у грáдку (*расьлíну*). 2. утыкáць, усáджваць, укараняць: ***embedded in rock*** укарэ́нены ў скáлу. 3. мóцна ўрэ́звацца (*у пáмяць*)

**ember** [ˈembәr] n. жар -у *m.*
• ***embers,*** pl. пры́сlак -ку *m.*

**embezzle** [imˈbezәl] v.t. прысабéчваць, крáсьці. 2. растрáчваць

**embitter** [imˈbɪtәr] v.t. напаўняць гóрыччу, выклікáць гóрыч

**embittered** [imˈbɪtәrd] adj. пóўны гóрычы, расчаравáны

**emblem** [ˈembləm] n. 1. знак, сы́мбаль: ***The dove is an emblem of peace*** Го́луб — сы́мбаль мі́ру. 2. эмбле́ма

**embody** [imˈbɑ:di] v.t. 1. увасабля́ць, ажыцьцяўля́ць. 2. абыма́ць у сабе́ (*пра кні́гу*). 3. уключа́ць (*у зако́н*)

**embower** [imˈbaʊər] v.t. ахіна́ць, пакрыва́ць за́сеньню (*пра лісто́ту*)

**embrace** [imˈbreɪs] – v. 1. абдыма́ц|ь (ца). 2. прыма́ць (*рэлі́гію, наго́ду*). 3. абніма́ць, ахапля́ць (*во́кам*), зьмяшча́ць
– n. абды́мкі *pl. only*

**embroider** [imˈbrɔɪdər] v.t. 1. вышыва́ць. 2. прыхаро́шваць (*пра́ўду*); пераба́льшваць (*апавяда́ньне*)

**embroidery** [imˈbrɔɪdəri] n., pl. **-deries** 1. вы́шыўка *f.* 2. упрыго́жваньне *n.*

**embryo** [ˈembrioʊ] – n., pl. **-bryos** заро́д|ак -ка *m.*: ***in embryo*** у заро́дку, у са́мым пача́тку (*такса́ма пра плян*)
– adj. неразьві́ты; недасьпе́лы; эмбрыяна́льны: ***an embryo idea*** недасьпе́лая ду́мка

**embryonic** [ˌembriˈɑ:nɪk] adj. 1. эмбрыяна́льны (*ста́дыя*), заро́дкавы. 2. неразьві́ты, недасьпе́лы (*плян*)

**emend** [ɪˈmend] v. 1. прапанава́ць зьме́ны *ці* папра́ўкі (*у тэ́ксьце, зако́не*). 2. уно́сіць папра́ўкі, выпраўля́ць недахо́пы (*тэ́ксту*)

**emerald** [ˈemərəld] – n. 1. смара́гд -у *m.* (*сьве́тла-зялёны кашто́ўны ка́мень*). 2. сьве́тла-зялёны ко́лер. 3. Print. эмэра́льд -у *m.* (*шрыфт 6 1/2 пу́нктаў*)
– adj. сьве́тлазялёны, смара́гдавы

**emerge** [ɪˈmɜ:rdʒ] v. 1. усплыва́ць; пака́звацца, выхо́дзіць, зьяўля́цца (*пра со́нца, ме́сяц*). 2. выяўля́цца, выкрыва́цца, станаві́цца ве́дамым (*пра фа́кты*). 3. выхо́дзіць: ***Many distinguished men have emerged from slums*** Шмат выда́тных людзе́й вы́йшла з трушчо́баў

**emergence** [ɪˈmɜ:rdʒəns] n. 1. зьяўле́ньне *n.* 2. вы́хад -у *m.* (*зь ніз́оў, бе́днасьці*)

**emergency** [ɪˈmɜ:rdʒənsi] – n., pl. **-cies** пі́льная патрэ́ба; крыты́чнае стано́вішча
– adj. 1. у пі́льнай патрэ́бе, крыты́чны. 2. запасны́: ***emergency brake*** запасны́ то́рмаз; ***emergency exit*** запасны́ вы́хад; ***emergency landing*** вы́мушаная паса́дка; ***emergency (ward)*** аддзе́л пе́ршае дапамо́гі (*у шпіта́лі*)

**emergent** [ɪˈmɜ:rdʒənt] adj. 1. які́ пака́зваецца, які́ віда́ць (*здалёку*). 2. які́ ўздыма́ецца, які́ вынырае (*з вады́ ці і́ншае ва́дкасьці*). 3. пі́льны

**emigrant** [ˈemɪgrənt] – n. эмігра́нт -а *m.*, эмігра́нтка *f.*
– adj. які́ эмігру́е; эмігра́нцкі

**emigrate** [ˈemɪgreɪt] v.i. эмігра́ваць

**emigration** [ˌemɪˈgreɪʃən] n. 1. эміграва́ньне *n.* 2. а) эмігра́цыя *f.* (*дзе́яньне й лю́дзі*), б) эмігра́нты *pl.*

**emigrational** [ˌemɪˈgreɪʃənəl] adj. эміграцы́йны

**eminence** [ˈemɪnəns] n. 1. сан -у *m.*; высо́кае стано́вішча; выда́тнасьць, здо́тнасьць *f.*, сла́ва *f.* 2. узвы́шша *n.*, высо́кі ўзго́рак
• ***Eminence*** высо́капра́вялле́бнасьць (*ты́тул кардына́ла*): ***Your Eminence*** Ва́шая Высо́капрaвялле́бнасьць

**eminent** [ˈemɪnənt] adj. 1. выда́тны; высо́капаста́ўлены (*асо́ба*). 2. незвыча́йны, асаблі́вы, рэ́дкі: ***a man of eminent fairness*** надзвы́чай сумле́нны чалаве́к. 3. высо́кі; узвы́шаны. 4.узьня́ты, узьне́сены (*над усі́м і́ншым*)

**emission** [ɪˈmɪʃən] n. 1. выпраме́ньваньне (*сьвятла́, цеплыні́*): ***the emission of light from the sun*** выпраме́ньваньне сьвятла́ со́нцам. 2. Phys. эмі́сія электро́наў

**emit** [ɪˈmɪt] v.t. **(-tt-)** 1. дава́ць, выпраме́ньваць: ***The sun emits light and heat*** Со́нца выпраме́ньвае сьвятло́ й цеплыню́. 2. выпушча́ць, выпуска́ць (*гро́шы*)
• ***emit roars*** раўці́
• ***emit smoke*** дымі́ць

**emotion** [ɪˈmoʊʃən] n. моцнае пачуцьцё (*страх, злосьць, каханьне*); хвалява́ньне *n.*; эмо́цыя *f.*

**emotional** [ɪˈmoʊʃənəl] adj. 1. эмацы́йны (*і чалаве́к*): ***emotional disturbance*** эмацы́йная неўраўнава́жанасьць. 2. крана́льны (*прамо́ва, му́зыка*). 3. па́лкі, гара́чы (*за́клік*)

**emotionally** [ɪˈmoʊʃənəli] adv. 1. з пачуцьцём. 2. эмацы́йна

**emperor** [ˈempərər] n. імпэра́тар -а *m.*

**emphasis** [ˈemfəsɪs] n., pl. **-ses** 1 на́ціск -у *m.*; пры́ціск -у *m.*; сíла *f.*: ***to put emphasis*** кла́сьці на́ціск (*на ва́жныя сло́вы ці фра́зы*), гавары́ць з пры́ціскам. 2. зна́чаньне, значэ́ньне *n.*: ***to lay emphasis on something*** надава́ць *чаму́* зна́чаньне, падкрэ́сьліваць

**emphasize** [ˈemfəsaɪz] v.t. 1. падкрэ́сьліваць; рабíць ва́жным. 2. звaрача́ць ува́гу

**emphatic** [ɪmˈfætɪk] adj. 1. мо́цна, цьвёрда ска́заны: ***Her answer was an emphatic "No!"*** Ейным адка́зам было́ цьвёрдае «Не!» 2. эмфаты́чны, насто́йлівы. 3. выра́зны, падкрэ́сьлены

**emphatically** [ɪmˈfætɪkəli] adv. падкрэ́сьлена, падчы́ркнута, зь сíлай: ***to speak emphatically*** гавары́ць выра́зна, перакана́ўча

**empire** [ˈempaɪr] n. 1. імпэ́рыя *f.*, валада́рства -а *n.* 2. абсалю́тная ўла́да, найвышэ́йшая ўла́да

**employ** [ɪmpˈlɔɪ] – v.t. 1. браць на пра́цу; трыма́ць на слу́жбе, на пра́цы. 2. ужыва́ць, скарысто́ўваць: ***to employ one's time wisely*** разу́мна скарысто́ўваць свой час. 3. займа́цца: ***to employ oneself*** займа́цца
– n. слу́жба *f.*: ***workers in the employ of the government*** працаўнікí на ўра́давай слу́жбе

**employee** [ɪmpˈlɔɪi:] n. службо́|вец -ўца *m.*, службо́ўка *f.*; працаўнíк -а́ *m.*, працаўнíца *f.*

**employer** [ɪmpˈlɔɪər] n.1. працада́|вец -ўца *m.* або́ працада́ўц|а -ы *m.*, гаспада́р прадпрые́мства. 2. той, хто карыста́е

**employment** [ɪmpˈlɔɪmənt] n. 1. пра́ца *f.* 2. ужыва́ньне *n.* 3. прыня́цьце на пра́цу
• ***employment office (bureau)*** бюро́ пра́цы

**empower** [emˈpaʊr] v.t. 1. упаўнава́жваць. 2. дазваля́ць, дава́ць магчы́масьць

**emptily** [ˈemptɪli] adv. пу́ста

**emptiness** [ˈemptɪnəs] n. пустэ́ча, пусьціня́ *f.*

**empty** [ˈempti] – adj. 1. паро́жны, паро́жні, пусты́ (*ку́бак*). 2. паро́жны, во́льны, незаня́ты (*дом, пако́й*). 3. вы́гружаны, паро́жны (*карабе́ль*)
– v.t. апаражня́ць, спаражня́ць; вылíва́ць, высыпа́ць
– v.i. 1. апаражня́цца, пусьце́ць (*пра за́лю*). 2. упада́ць, улíва́цца, уцяка́ць (*пра раку́*)
• ***an empty promise*** пусто́е абяца́ньне
• ***empty (of dreams)*** без (летуце́ньняў)

**empty-handed** [ˌemptɪˈhændɪd] adj. з пусты́мі рука́мі

**enable** [ɪnˈeɪbəl] v.t. 1. дава́ць магчы́масьць. 2. рабíць магчы́мым

**enact** [ɪnˈækt] v.t. 1. прыма́ць зако́напрае́кт, уво́дзіць зако́н. 2. выдава́ць дэкрэ́т; зага́дваць. 3. íгра́ць ро́лю на сцэ́не; разы́грываць

**enamel** [ɪˈnæməl] – n. 1. эма́ль *f.* (*зубна́я й для по́суду*). 2. глязу́ра, палíва *f.* (*для глíня́ных вы́рабаў*). 3. эмалява́ныя рэ́чы *або́* по́суд
– v.t. пакрыва́ць эма́льлю

**enamelware** [ɪˈnæməlwer] n. эмалява́ны по́суд

**enchant** [ɪnˈtʃænt] v.t. 1. чарава́ць, вядзьма́рыць. 2. ачаро́ўваць, зачаро́ўваць; захапля́ць

**enchanting** [ɪnˈtʃæntɪŋ] adj. чаро́ўны

**enchantment** [ɪnˈtʃæntmənt] n. 1. зачарава́ньне, зачаро́ўваньне. 2. ча́ры *pl. only*, чарадзе́йства, чараўнíцтва *n.* 3. захапле́ньне *n.*, зачарава́насьць *f.*

**encircle** [ɪnˈsɜːrkəl] v.t. 1. акружáць, расьці навóкал. 2. хадзíць, круцíцца навóкал: ***The moon encircles the earth*** Мéсяц крýціцца навóкал зямлí

**enclose** [ɪnˈkloʊz] v.t. 1. абкружáць. 2. абгарóджваць, абгараджáць (*плóтам, мýрам*). 3. укладáць; далучáць, улучáць: ***The check is enclosed*** Рахýнак далýчаны. 4. зьмяшчáць у сабé

**encore** [ˈɑːnkɔːr] – interj. біс
– v.t. выклікáць на біс
– n. дамагáньне паўтарэ́ньня нýмару, вы́кліканьне на «біс»

**encounter** [ɪnˈkaʊntər] – v.t. 1. нечакáна сустракáць. 2. сустракáцца (*зь цяжкасьцямí, апазы́цыяй*). 3. змагáцца; бíцца, сутыкáцца (*з супрацíўнікам, вóрагам*)
– n. 1. сустрэ́ча, нечакáная сустрэ́ча. 2. бітвá *f.*, бо|й -ю *m.*, суты́чка *f.*

**encourage** [ɪnˈkɜːrɪdʒ] v.t. 1. падбадзёрваць. 2. заахвóчваць; прыахвóчваць; спрыя́ць; дапамагáць

**encouragement** [ɪnˈkɜːrɪdʒmənt] n. заахвóчаньне *n.*, падтры́мка *f.*, падбадзёрваньне *n.*

**encumber** [ɪnˈkʌmbər] v. 1. загрувáшчваць. 2. замінáць, перашкаджáць. 3. абцяжáрваць, абця́жваць (*даўгáмі*)

**end** [end] – n. 1. кан|éц -цá *m.* 2. мэ́та *f.*: ***He had gained his end*** Ён дасягнýў сваé мэ́ты. 3. вы́нік, рэзультáт -у *m.* 4. кан|éц -цá *m.*, сьмерць *f.* 5. астáт|ак -ку *m.*, фрагмэ́нт -у *m.*, уры́|вак -ўку *m.* 6. мéжы *pl.*; кра|й -ю *m.*: ***There was no end to her patience*** Ня былó мéжаў éйнай цярплíвасьці
– v.t. канчáць, закáнчваць
– v.i. канчáцца; памірáць
– adj. канцавы́, канéчны́: ***the end result*** канéчны вы́нік
• ***at loose ends*** а) няўлáджаны, бяз спрáвы. б) у пóўным бязлáдзе
• ***in the end*** у канцы́, канчаткóва
• ***make both ends meet*** звóдзіць канцы́ з канцáмі
• ***put an end to*** спынíць, зьнíшчыць; забíць

**endanger** [ɪnˈdeɪndʒər] v.t. стáвіць пад небясьпéку, стварáць небясьпéку; рызыкавáць (*жыцьцём*)

**endear** [ɪnˈdɪr] v.t. 1. рабíць мíлым, прымушáць палюбíць. 2. Obsol. здабывáць нéчае пачуцьцё

**endearment** [ɪnˈdɪrmənt] n. 1. пяшчóта, лáска *f.* 2. выяўлéньне пяшчóты: ***term of endearment*** пяшчóтныя слóвы

**endeavor** or **endeavour** [ɪnˈdevər] – v. спрабавáць; шчы́ра старáцца, намагáцца; сíліцца
– n. спрóба *f.*, старáньне *n.*, вы́сіл|ак -ку *m.*, намагáньне *n.*

**ending** [ˈendɪŋ] n. 1. заканчэ́ньне *n.* 2. сьмерць *f.* 3. Gram. канчáт|ак -ку *m.*

**endless** [ˈendləs] adj. бяскóнцы; бяскрáйны, бязьмéжны

**endlessly** [ˈendləsli] adv. бяскóнца, бязьмéжна

**endlessness** [ˈendləsnəs] n. бяскóнцасьць, бяскрáйнасьць *f.*

**endorse** [ɪnˈdɔːrs] v.t. 1. ухваля́ць; пацьвярджáць; падтры́мваць. 2. квітавáць пóдпісам. 3. падпíсваць (*чэ́к*)

**endorsement** [ɪnˈdɔːrsmənt] n. 1. пацьвéрджаньне, падтрымáньне *n.* 2. пóдпіс (*на чэ́ку*)

**endow** [ɪnˈdaʊ] v.t. 1. забясьпéчваць стáлым прыбы́ткам. 2. надзяля́ць, абдóрваць (*тáлентам, здóльнасьцямí*)

**endowment** [ɪnˈdaʊmənt] n. 1. ахвяравáньне *n.*, надзéл -у *m.* 2. прырóджаныя здóльнасьці, тáлент

**endurable** [ɪnˈdʊrəbəl] adj. 1. знóсны, якí мóжна цярпéць. 2. тры́валы

**endurance** [ɪnˈdʊrəns] n. 1. тры́валасьць, загартавáнасьць *f.* (*фізы́чная*). 2. а) сíла, здóльнасьць цярпéць боль *ці* íншыя пакýты. б) цярпéньне бóлю; перажывáньне *абó* перанóшаньне цяжкасьцяў *ці* нягóдаў. 3. працягласьць *f.*, тры́ваньне *n.*

**endure** [ɪnˈdʊr] – v.i. 1. тры́ваць, пратрывáць, праіснавáць
– v.t. 1. зазнавáць, перажывáць; перанóсіць, перанéсьці; тры́ваць, вытры́м-

ваць. 2. цярпéць; знóсіць (*абрáзу, крыўду*); талеравáць

**enema** [ˈenəmə] n., pl. **-mas, -mats** клíзма *f.*

**enemy** [ˈenəmi] – n., pl. **-mies** вóраг -а *m.*; нéпрыяцел|ь -я *m.*; супрацíўнік -а *m.*
– adj. 1. вóрагаў. 2. варóжы, супрацíўны

**energetic** [ˌenərˈdʒetɪk] adj. 1. энэргíчны (*чалавéк*). 2. мóцны, напрýжаны

**energetics** [ˌenərˈdʒetɪks] n. энэргéтыка *f.*

**energy** [ˈenərdʒi] n., pl. **-gies** сíла *f.*; моц *f.*; энэ́ргія *f.*

**enervate** [ˈenərveɪt] – v.t. зьнясíльваць; аслабля́ць, расслабля́ць (*і ўмысло́ва ці марáльна*)
– adj. абясьсíлены, аслабéлы; зьнясíлены

**enervation** [ˌenərˈveɪʃən] n. 1. абясьсíльвáньне *n.* (*дзéяньне*). 2. зьнясíленьне, расслáбленьне *n.*, расслáбленасьць *f.* (*стан*). 3. Med. расслáбленьне нэрвóвай сыстэ́мы

**enfeeble** [ɪnˈfi:bəl] – v.t. аслабля́ць, рабíць квóлым
– v.i. зьнемагáць

**enfeebled** [ɪnˈfi:bəld] adj. зьнямóжаны, аслáблены

**enforce** [ɪnˈfɔ:rs] v.t. 1. дамагáцца, змушáць, прымушáць (*да паслухмя́насьці, падпарáдкаваньня прáвілам*). 2. прымушáць (*сíлай ці пагрóзамі*). 3. усяля́ць, прышчапля́ць

**enforced** [ɪnˈfɔ:rst] adj. прымýшаны; прымусóвы

**enforcement** [ɪnˈfɔ:rsmənt] n. прымушэ́ньне *n.*, прымýс -у *m.*

**engage** [ɪnˈgeɪdʒ] – v.t. 1. забавя́зваць (*абяцáньнем ці кантрáктам*). 2. заручáць (*маладых*). 3. займáць (*час*): ***engaged in conversation*** заня́ты гýтаркай. 4. наймáць; замаўля́ць зáгадзя (*білéты, пакóй*). 5. прыцягваць (*увáгу да сябе*). 6. Tech. зачапля́ць. 7. атакавáць, пачынáць бой *ці* бітвý
– v.i. 1. забавя́звацца. 2. займáцца, браць удзéл. 3. уступáць у бой (бóйку). 4. Tech. зачапля́цца, зачэ́пвацца (*пра зýбы кóлаў*)

**engaged** [ɪnˈgeɪdʒd] adj. 1. зарýчаны. 2. заня́ты. 3. наня́ты

**engagement** [ɪnˈgeɪdʒmənt] n. 1. зарýчыны *pl. only*. 2. заня́т|ак -ку *m.*, спрáва *f.* 3. абяцáньне, забавязáньне *n.* 4. прызнáчанае спаткáньне. 5. бітвá, сутычка *f.*
• ***engagements*** фінáнсавыя забавязáньні

**engagement ring** заручáльны пярсьцёнак

**engaging** [ɪnˈgeɪdʒɪŋ] adj. панáдны, прывáбны, чарóўны (*усьмéшка*)

**engine** [ˈendʒɪn] n. 1. рухавíк -á *m.*, матóр -а *m.* 2. паравóз -а, лакаматыў -ва *m.* 3. машына, прылáда *f.*

**engine driver**, esp. Brit. машынíст -а *m.*

**engineer** [ˌendʒɪˈnɪr] n. 1. інжынэ́р, мэхáнік. 2. машынíст -а *m.*

**engineering** [ˌendʒɪˈnɪrɪŋ] n. тэ́хніка *f.*, інжынэ́рства *n.*

**English** [ˈɪŋglɪʃ] – adj. ангéльскі, англíйскі
– n. 1. ангéльцы *coll.*, англічáне. 2. ангéльская мóва: ***in English*** па-ангéльску; ***English-speaking*** англамóўны

**English Canadian** канáд|зец (-ка) ангéльскага пахóджаньня

**Englishman** [ˈɪŋglɪʃmən] n., pl. **-men** ангéл|ец -ьца *m.*, англічáнін -а *m.*

**Englishwoman** [ˈɪŋglɪʃˌwʊmən] n., pl. **-women** ангéлька, англічáнка *f.*

**engrave** [ɪnˈgreɪv] – v.t. выразáць (*на дрэ́ве, мэтáле, шкле*), гравіравáць
– v.i. (on) заставáцца, захóўвацца ў пáмяці: ***His mother's face was engraved on his memory*** Мáтчын твар захавáўся ў ягóнай пáмяці

**engraver** [ɪnˈgreɪvər] n. гравёр -а *m.*

**engraving** [ɪnˈgreɪvɪŋ] n. 1. гравіравáньне *n.* (*дзéяньне*). 2. а) гравірóўка *f.* (*дзéяньне, малю́нак абó нáдпіс*). б) гравю́ра *f.*

**engross** [ɪnˈgroʊs] v.t. 1. цáлкам займáць; паглынáць, цáлкам захапля́ць (*сьвядóмасьць, увáгу, дýмкі*): ***She was engrossed by the interesting story*** Усю́ éйную ўвáгу захапíла

цікáвае апавядáньне. 2. пісáць *абó* перапíсваць вялíкімі лíтарамі. 3. манапалізавáць

**engrossed** [ɪnˈgroʊst] adj. 1. цáлкам заня́ты; паглынýты, цáлкам захóплены (*пра ўвáгу, дýмкі*)

**enjoin** [ɪnˈdʒɔɪn] v.t. 1. загáдваць, прадпíсваць. 2. Law забараня́ць

**enjoy** [ɪnˈdʒɔɪ] v.t. 1. цéшыцца; мець асалóду *абó* прыéмнасьць; быць задавóленым: ***to enjoy life*** цéшыцца жыцьцём: ***to enjoy a visit*** прыéмна гасьцявáць; ***How did you enjoy the book?*** Як вам спадабáлася кнíга? 2. мець; карыстáцца: ***to enjoy good health*** мець дóбрае здарóўе; ***to enjoy rights*** карыстáцца правáмі

• ***enjoy oneself*** весялíцца; дóбра бáвіць час

**enjoyable** [ɪnˈdʒɔɪəbəl] adj. прыéмны

**enjoyment** [ɪnˈdʒɔɪmənt] n. 1. асалóда *f.*; уцéха, прыéмнасьць *f.* 2. рáдасьць *f.*, шчáсьце *n.*

**enlarge** [ɪnˈlɑ:rdʒ] v.t. 1. пабóльшваць; павялíчваць (*здымак*). 2. пашырáць (*сьветагля́д*)

**enlighten** [ɪnˈlaɪtən] v.t. 1. адукóўваць, давáць асьвéту. 2. прасьвятля́ць, пашырáць вéды, культýру

**enlightenment** [ɪnˈlaɪtənmənt] n. асьвéта *f.*

**Enlightenment** [ɪnˈlaɪtənmənt] n. эпóха Асьвéтніцтва

**enlist** [ɪnˈlɪst] – v.t. 1. залічáць; прызывáць (*на вайскóвую слýжбу*). 2. прыця́гваць (*да нéйкае спрáвы*), здабывáць падтры́мку *абó* дапамóгу. 3. унóсіць у сьпіс

– v.i. 1. паступáць, прызывáцца (*у вóйска*). 2. далучáцца да нéйкае спрáвы, дапамагáць

**enliven** [ɪnˈlaɪvən] v.t. ажыўля́ць; весялíць

**enlivening** [ɪnˈlaɪvənɪŋ] adj. які́ разьвесяля́е, ажыўля́льны

**enmity** [ˈenməti] n., pl. **-ties** варóжасьць; нянáвісьць *f.*

**enormous** [ɪˈnɔ:rməs] adj. 1. велічэ́зны; велізáрны, вялíзны. 2. стрáшны, жахлíвы: ***enormous crimes*** жахлíвыя злачы́нствы

**enough** [ɪˈnʌf] – adv. 1. дóсыць, давóлі, дастаткóва, хóпіць: ***not enough*** замáла, не стаé. 2. дóсыць: ***well enough*** дóсыць дóбра

– adj. адпавéдны, дастаткóвы

– n. дастаткóвая кóлькасьць

– interj. гóдзе! стой!

**enounce** [ɪˈnaʊns] v. 1. абвяшчáць. 2. гавары́ць, вымаўля́ць

**enrage** [ɪnˈreɪdʒ] v.t. 1. мóцна злавáць. 2. разьюшваць, лютавáць (зьвярá)

**enrapt** [ɪnˈræpt] adj. захóплены; зачараваны

**enrapture** [ɪnˈræptʃər] n. захапля́ць, зачарóўваць; прывóдзіць у транс: ***He was enraptured*** Ён быў захóплены

**enrich** [ɪnˈrɪtʃ] v.t. 1. узбагачáць. 2. павышáць пажы́ўнасьць (*éжы*). 3. угнóйваць, рабíць больш ураджáйным (*глéбу*)

**enroll** [ɪnˈroʊl] v.t., **(-ll-)** 1. занóсіць у сьпіс. 2. залічáць у шкóлу. 3. прызывáць на вайскóвую слýжбу. 4. рэгістравáць . 5. скрýчваць трýбкай (*у скрýтак*)

**enrollment** [ɪnˈroʊlmənt] n. 1. прыймó *n.*, прымáньне *n.* 2. кóлькасьць пры ня́тых (*вýчняў*). 3. рэгістрáцыя *f.*

**enslave** [ɪnˈsleɪv] v.t. панявóльваць; зьнявóльваць

**ensnare** [ɪnˈsner] v.t. лавíць у сілó, пáстку; паланíць

**ensue** [ɪnˈsu:] v.i. 1. наступáць, надыхóдзіць, прыхóдзіць пасьля́ *чагó*: ***Silence ensued*** Наступíла цíша. 2. быць вы́нікам: ***He hit the man, and a fight ensued*** Ён удáрыў чалавéка, і ў вы́ніку пачалáся бóйка

**ensure** [ɪnˈʃʊr] v.t. 1. рабíць пэ́ўным, гарантавáць. 2. забясьпéчваць. 3. ахóўваць

**entangle** [ɪnˈtæŋgəl] v.t. 1. блы́таць, зблы́тваць, заблы́тваць (*нíткі*). 2. лавíць у пáстку. 3. ублы́тваць, уця́гваць, умéшваць (*у непрыéмную абó небясьпéчную спрáву*)

**entanglement** [ɪnˈtæŋgəlmənt] n. 1. пераблы́тваньне, зблы́тваньне *n.* 2. ублы́тваньне ў ця́жкасьці. 3. Mil.перашкóда (*асабл. з калю́чага дрóту*)

**enter** [ˈentər] v.t. 1. увахóдзіць: ***He entered the house*** Ён увайшóў у дом; прыхóдзіць (*у галаву́, пра ду́мку*). 2. паступа́ць, заліча́цца: ***enter the university*** заліча́цца ўва ўнівэрсытэ́т; ***to enter the army*** прызыва́цца, ісьці́ (*у во́йска*); прыма́ць, запі́сваць|ь (-ца) ў шкóлу. 3. пачына́ць (*пра́ктыку*). 4. занóсіць, упі́сваць, запі́сваць

• ***enter into*** а) браць удзе́л; увахóдзіць, быць ча́сткай. б) дыскутава́ць

• ***enter on*** or ***upon*** а) пачына́ць. б) уступа́ць ва ўлада́ньне: ***to enter upon the estate*** пераня́ць гаспада́рку

**enterprise** [ˈentərpraɪz] n. 1. ва́жная заду́ма, спра́ва *або́* пачына́ньне. 2. прадпрыёмства, прадпрые́мства *n.*: ***a business enterprise*** гандлёвае прадпрые́мства. 3. прадпрыма́льнасьць, ініцыяты́ва *f.*

**enterpriser** [ˈentərpraɪzər] n. прадпрыма́льнік -а, прадпрые́м|ец -ца *m.*

**enterprising** [ˈentərpraɪzɪŋ] adj. прадпрыма́льны, энэргі́чны, ініцыяты́ўны

**entertain** [ˌentərˈteɪn] v.t. 1. забаўля́ць, весялі́ць; пацяша́ць, займа́ць (*ціка́вым*). 2. прыма́ць гасьцéй. 3. мець (*заду́му*), мець надзе́ю, прыя́зныя пачу́цьці: ***to entertain a hope of success*** мець надзе́ю на ўда́чу

**entertainer** [ˌentərˈteɪnər] n. 1. актóр -а, сьпява́к сьпевака́, музы́к|а -і *m.* 2. хто прыма́е гасьцéй

**entertaining** [ˌentərˈteɪnɪŋ] adj. ве́льмі ціка́вы, займа́льны, заба́ўны

**entertainment** [ˌentərˈteɪnmənt] n. 1. а) заба́ва, уце́ха *f.* б) фільм -у *m.*, п’е́са *f.* 2. прыма́ньне гасьцéй, гасьцява́ньне *n.*

**enthusiasm** [ɪnˈθuːziˌæzəm] n. запа́л -у, пары́|ў -ву *m.*; энтузія́зм -у *m.*, захапле́ньн|е -я *n.*

**enthusiast** [ɪnˈθuːziæst] n. энтузія́ст -а *m.*, энтузія́стка *f.*

**enthusiastic** [ɪnˌθuːziˈæstɪk] adj. энтузіясты́чны, захóплены

**entice** [ɪnˈtaɪs] v.t. на́дзіць; прына́джваць, зана́джваць; ва́біць

**enticement** [ɪnˈtaɪsmənt] n. прына́да, прыва́ба *f.*

**entire** [ɪnˈtaɪr] adj. 1. уве́сь *m.*, уся́ *f.*, усё *n.* 2. цэ́лы; пóўны; непадзе́льны (*маёмасьць*), суцэ́льны

**entirely** [ɪnˈtaɪrli] adv. зусі́м, ца́лкам

**entitle** [ɪnˈtaɪtəl] v.t. 1. называ́ць, дава́ць назóў. 2. дава́ць пра́ва на *што*, упаўнава́жваць. 3. надава́ць ты́тул, тытулава́ць:

• ***be entitled*** а) называ́цца. б) мець пра́ва, быць упаўнава́жаным. в) атрыма́ць ты́тул

**entity** [ˈentəti] n., pl. **-ties** 1. цэ́ласьць *f.* 2. істóта *f.* 3. быцьцё, існава́ньне *n.*

**entomb** [ɪnˈtuːm] v.t. 1. хава́ць (*паме́рлага*). 2. замыка́ць, як у магі́лу

**entomology** [ˌentəˈmɑːlədʒi] n. энтамалёгія *f.*

**entrails** [ˈentreɪlz] n., pl. 1. Anat. а) вантрóбы *pl. only.* б) кі́шкі. 2. не́тры *pl. only* (*зямлі́*)

**entrance** [ˈentrəns] n. 1. уваход -у *m.* (*дзе́яньне й ме́сца*), зае́зд -у *m.*: ***entrance hall*** прыхóжы пакóй, се́ні. 2. дазвóл на ўвахóд

**entrap** [ɪnˈtræp] v.t.1. лаві́ць у па́стку *або́* як у па́стку. 2. ашу́кваць, ублы́тваць у ця́жкасьці *або́* небясьпе́ку

**entreat** [ɪnˈtriːt] v. умóльваць, упрóшваць

**entreaty** [ɪnˈtriːti] n., pl. **-treaties** умóльваньне, упрóшваньне *n.*

**entrench** [ɪnˈtrentʃ] v. 1. умацóўваць, абвóдзіць акóпам. 2. замацóўвацца, укараня́цца (*і пра звы́чай*). 3. паруша́ць (*правы́*)

**entrepreneur** [ˌɑːntrəprəˈnɜːr] n. прадпрые́м|ец -ца *m.*, антрэпрэнэ́р -а *m.*

**entrust** [ɪnˈtrʌst] v.t. 1. давяра́ць. 2. даруча́ць; аддава́ць пад апе́ку (*дзяцéй*)

**entry** [ˈentri] n., pl. **-tries** 1. увахóд -у *m.*; уе́зд -у *m.* 2. дзьве́ры; бра́ма; прахóд -у *m.* 3. занясе́ньне (*у сьпіс*), за́піс -у

*m.* 4. слóўнікавае гняздó, артыкул. 5. удзéльнік кóнкурсу
**entry word** загалóўнае слóва
**enumerate** [ɪˈnu:məreɪt] v.t. 1. пералічáць. 2. лічыць
**enumeration** [ɪˌnu:məˈreɪʃən] n. 1. пералічэньне *n.*, пералік -у *m.* 2. сьпіс -у *m.*
**enunciate** [ɪˈnʌnsieɪt] – v.t. 1. вырáзна вымаўляць (*слóвы*). 2. абвяшчáць
– v.i. вырáзна вымаўляць
**enunciation** [ɪˌnʌnsiˈeɪʃən] n. 1. абвéшчаньне *n.* 2. спóсаб вымаўляньня слóваў і складóў, артыкуляцыя *f.*
**envelop** [ɪnˈveləp] v.t. 1. закрýчваць; захýтваць, захінáць (*дзіця ў кóўдрачку*); загóртваць; закрýчваць (*у газэту*). 2. акружáць (*вóрага*). 3. ахінáць: ***Fog enveloped the village*** Імглá ахінýла вёску
**envelope** [ˈenvəloʊp] n. 1. канвэрт -а *m.* 2. Bot., Biol. абалóнка *f.*
**enveloped** [ɪnˈveləpt] adj. 1. захýтаны, закрýчаны; укрýчаны. 2. ахóплены, агóрнуты; абкрýжаны (*вóрагам*)
**enviable** [ˈenviəbəl] adj. якóму мóжна пазайздрóсьціць, вáрты зáйздрасьці
**envious** [ˈenviəs] adj. зайздрóсны
**environment** [ɪnˈvaɪrənmənt] n. асярóдзьдзе, акружэньне *n.*, навакóльныя абстáвіны *pl. only.*
**envoy** [ˈenvɔɪ] n. 1. пасланéц -цá *m.*, прадстаўнік -á *m.* 2. паслáньнік -а *m.* (*дыпляматычны прадстаўнік*)
**envy** [ˈenvi] – n., pl. **-vies** 1. зáйздрасьць *f.* 2. прадмéт зáйздрасьці
– v.t. зайздрóсьціць
**epic** [ˈepɪk] – n. эпíчная паэма
– adj. 1. эпíчны. 2. гераíчны
**epidemic** [ˌepɪˈdemɪk] – n. пóшасьць, эпідэмія *f.*
– adj. пóшасны; эпідэмíчны
**epidermis** [ˌepɪˈdɜ:rmɪs] n., Anat., Bot. эпідэрма, эпідэрміс
**epigram** [ˈepɪgræm] n. эпігрáма *f.*
**epilepsy** [ˈepɪlepsi] n. эпілéпсія, падýчка *f.*
**epilogue** or **epilog** [ˈepɪlɔ:g] n. эпілёг -у *m.*
**episode** [ˈepɪsoʊd] n. эпізóд -у *m.*, выпадак -ку *m.*
**epistle** [ɪˈpɪsəl] n. 1. паслáньне *n.* 2. эпíстала *f.*, літаратýрны вершавáны твор у фóрме лістá
**epitaph** [ˈepɪtæf] n. эпітáфія *f.*, нагрóбны нáдпіс
**epithet** [ˈepɪθet] n. эпітэт -у *m.*
**epoch** [ˈepək] n. эпóха *f.*
**epochal** [ˈepəkəl] adj. эпахáльны
**equal** [ˈi:kwəl] – adj. рóўны, аднóлькавы
– n. 1. рóўны -ага *m.*, рóўная *f.*; раўня *f.* 2. рóўны лік, рóўная кóлькасьць
– v.t. 1. раўняцца, раўнавáцца. 2. быць рóўным: ***Two times two equals four*** Двóйчы два — чатыры
**equality** [ɪˈkwɑ:ləti] n., pl. **-ties** рóўнасьць *f.*, раўнапрáўе *n.*
**equally** [ˈi:kwəli] adv. аднóлькава; рóўна; парóўну
**equanimity** [ˌekwəˈnɪməti] n. 1. самавалóданьне, самапанавáньне *n.* 2. вытрымка *f.*
**equation** [ɪˈkweɪʒən] n.1. зраўнáньне *n.* 2. Math. раўнáньне *n.*
**equator** [ɪˈkweɪtər] n. эквáтар -у *m.*
**equilateral** [ˌi:kwɪˈlætərəl] adj., Geom. рóўнабакóвы: ***an equilateral triangle*** рóўнабакóвы трыкýтнік
**equilibrium** [ˌi:kwɪˈlɪbriəm] n., pl. **-riums, -ria** раўнавáга *f.*
**equip** [ɪˈkwɪp] v.t. **(-pp)** 1. забясьпéчваць (*усíм патрэбным*); аснашчáць. 2. абсталёўваць
**equipment** [ɪˈkwɪpmənt] n. 1. забесьпячэньне, як а) рыштýнак -ку *m.* (*рыбáцкі, пахóдны, вадалáзны*). б) адзéньне *n.*, абýтак -ку *m.* 2. абсталявáньне *n.* 4. вéды *pl.*, кваліфікáцыя *f.*
**equitable** [ˈekwətəbəl] adj. справядлíвы, слýшны; бесстарóнны, бесстарóньні
**equity** [ˈekwəti] n., pl. **-ties** справядлíвасьць, бесстарóннасьць *f.*
**equivalence** [ɪˈkwɪvələns] n. 1. раўназнáчнасьць, раўнацэннасьць *f.* 2. раўнавáртаснасьць, эквівалéнтнасьць *f.*
**equivalent** [ɪˈkwɪvələnt] – adj. 1. раўнацэнны, раўнамéрны, раўназнáчны. 2. раўнавáртасны, эквівалéнтны

– n. эквівалéнт -а *m.*

**era** [ˈɪrə] n. э́ра *f.*

**eradicate** [ɪˈrædɪkeɪt] v.t. 1. выкараня́ць; выво́дзіць; зжыва́ць; цалкóм зьнішча́ць. 2. вырыва́ць з кóранем (*зéльле*)

**erase** [ɪˈreɪs] v.t. 1. сьціра́ць (*гу́мкай*). 2. сьціра́ць (*з па́мяці*); выкрэ́сьліваць

**eraser** [ɪˈreɪsər] n. гу́мка, сьці́рка *f.*

**erasure** [ɪˈreɪʃər] n. 1. сьціра́ньне *n.* 2. вы́цертая лíтара *абó* слóва. 3. мéсца, дзе былó сьцéртае слóва *абó* лíтара

**erect** [ɪˈrekt] – adj. 1. прóсты. 2. натапы́раны (*пра вóлас*); ашчацíнены (*пра поу́сьць у ката́*)

– v.t. 1. ста́віць (*пóмнік*); узвóдзіць. 2. будава́ць (*дом*). 3. склада́ць, мантава́ць (*машы́ну*). 4. заклада́ць (*устанóву*). 5. утвара́ць (*штат, акру́гу*)

**erectly** [ɪˈrektli] adv. прóста ўвéрх, угóру; прастаста́ўна, вэртыка́льна

**erode** [ɪˈroʊd] v. 1. разьяда́ць; вытраўля́ць. 2. размыва́ць; тачы́ць (*пра ваду́*)

**erosion** [ɪˈroʊʒən] n. 1. разьяда́ньне, вытраўля́ньне *n.* 2. вывéтрываньне *n.*; эрóзія *f.* (*ска́лаў*)

**erosive** [ɪˈroʊsɪv] adj.1. які́ разьядáе. 2. які́ выклікáе вывéтрываньне *абó* эрóзію

**err** [er] v.i. 1. мыля́цца, памыля́цца. 2. грашы́ць. 3. не патрапля́ць у мэ́ту (*пра стралу́*)

**errand** [ˈerənd] n. 1. даручэ́ньне *n.* 2. пабягу́шка *f.*: ***to run (on) errands*** быць на пасы́лках, на пабягу́шках

**errata** [eˈrɑːtə] n. pl. of **erratum** 1. памы́лка ў пісьмé ці дру́ку. 2. сьпіс памы́лак дру́ку (*у кнíзе*)

**erroneous** [ɪˈroʊniəs] adj. памылкóвы, няпра́вільны, хíбны

**error** [ˈerər] n. 1. памы́лка, хíба *f.* 2. аблу́да *f.*, памылкóвы пагля́д *абó* ду́мка. 3. грэх граху́ *m.*

**erudite** [ˈerjədaɪt] adj. вучóны, начы́таны, з эруды́цыяй

**erudition** [ˌerjəˈdɪʃən] n. эруды́цыя *f.*; начы́танасьць, вучóнасьць *f.*

**erupt** [ɪˈrʌpt] – v.i. 1. выбуха́ць; раптóўна ўзьнíка́ць. 2. пакрыва́цца вы́сыпкай. 3. прарэ́звацца (*пра зу́бы, рóгі*)

– v.t. выкіда́ць (*навóнкі*): ***The volcano erupted lava and ashes*** Вулька́н выкіда́ў ля́ву й пóпел

**eruption** [ɪˈrʌpʃən] n.1. вы́бух -у *m.*, узьнікнéньне *n.* 2. Geol. выкіда́ньне (*ля́вы*). 3. вы́сыпка *f.* (*пры вóдры*). 4. прарэ́званьне (*зубóў, рóгаў*)

**escalator** [ˈeskəleɪtər] n. эскаля́тар -а *m.* (*рухóмыя схóды*)

**escape** [ɪˈskeɪp] – v.i., v.t. 1. уцяка́ць, вырыва́цца. 2. выратóўвацца, ўратóўвацца, усьцерага́цца. 3. уцяка́ць, выцяка́ць (*пра газ, ва́дкасьць*). 4. Bot. дзíка расьцí. 5. выскóкваць (*з па́мяці*), вырыва́цца (*пра крык*)

– n. 1. уцёкі *pl. only.* 2. запасны́ вы́хад. 3. рату́н|ак -ку *m.*: ***There is no escape*** Няма́ рату́нку. 4. выцяка́ньне *n.* (*га́зу, ва́дкасьці*)

**escort** [ˈeskɔːrt] – n. 1. ахóва *f.*; канвó|й -ю *m.*, эскóрт -у *m.* (*ганарóвы, ахóўны*). 2. кавалéр -а *m.* (*які́ суправаджáе дзяўчы́ну*)

– v.t. [ɪˈskɔːrt] суправаджа́ць

**especial** [ɪˈspeʃəl] adj. асаблíвы; адмéтны; незвыча́йны, спэцыя́льны

**especially** [ɪˈspeʃəli] adv. асаблíва; галóўным пара́дкам; незвыча́йна, спэцыя́льна

**essay** [ˈeseɪ] – n. 1. літарату́рны на́рыс; эсэ́ *n.*, i*ndecl.* 2. спрóба *f.*, намага́ньне *n.*; выпрабава́ньне *n.*

– v.t. 1. спрабава́ць. 2. выпрабóўваць

**essayist** [ˈeseɪɪst] n. эсэíст -а *m.*

**essence** [ˈesəns] n. 1. íснасьць, су́тнасьць *f.* (*нутраны́ зьмест*). 2. экстра́кт -у *m.*, эсэ́нцыя *f.* (*з расьлíнных абó жывёльных тка́нак*). 3. парфу́ма *f.*: ***in essence*** на са́май спра́ве, у запра́ўднасьці

• ***of the essence*** істóтны, зна́чны; вéльмі ва́жны; галóўны: ***Time is of the essence*** Час тут вéльмі ва́жны

**essential** [ɪˈsenʃəl] – adj. 1. істóтны, аснóўны, ва́жны, неабхóдны: ***Good***

***food and enough rest are essential to good health*** Добрая ежа і адпачынак неабходныя для добрага здароўя. 2. які ёсьць існасьцю нечага, неад'емны. 3. які ёсьць эсэнцыяй або мае ў сабе эсэнцыю (*пра расьліны*): ***essential oil*** эфірны алей
– n. 1. існасьць *f.*, істотная *або* асноўная рыса. 2. неабходная рэч

**essentially** [ɪˈsenʃəli] adv. на самай справе, у запраўднасьці

**establish** [ɪˈstæblɪʃ] v.t. 1. засноўваць, закладаць; наладжваць: ***to establish relations*** наладзіць сувязі. 2. усталёўваць; уводзіць, заводзіць (*парадак*): ***to establish a government*** усталяваць уладу. 3. адкрываць (*прадпрыемства, лекарскую практыку*). 4. (oneself) разьмяшчацца, масьціцца; уладкоўвацца; асяляцца. 5. уводзіць (*звычай*). 6. даводзіць (*факт*), абгрунтоўваць

**establishment** [ɪˈstæblɪʃmənt] n. 1. фірма, установа *f.* 2. заснаваньне *n.*, наладжаньне
• ***The Establishment*** істэблішмэнт -у *m.*, уплывовая група людзей у краі, грамадзтве

**estate** [ɪˈsteɪt] n. 1. маёнт|ак -ку *m.*, двор двара *m.* 2. маёмасьць *f.*: ***real estate*** нерухомая маёмасьць. 3. пэрыяд жыцьця, век -у *m.*: ***to attain man's estate*** дасягнуць мужчынскага веку, узмужнець. 4. стан у грамадзтве: ***the three estates*** тры станы (*шляхта, духавенства й простыя людзі*)

**esteem** [ɪˈsti:m] – v.t. 1. цаніць; шанаваць. 2. лічыць, прызнаваць: ***esteem useless*** лічыць бескарысным. 3. ацэньваць (*вартасьць, заслугі*)
– n. пашана *f.*: ***to hold in esteem*** мець у пашане, шанаваць

**ester** [ˈestər] n., Chem. этэр, эфір -у *m.* (*складаны*)

**estimate** [ˈestɪmeɪt] – v.t. прыблізна вызначаць, ацэньваць (*вартасьць, цану*), прыблізна аблічаць
– v.i. складаць (*каштарыс*)
– n. [ˈestɪmət] 1. прыблізная ацэнка, аблічэньне: ***estimate of the value*** ацэньваньне вартасьці. 2. каштарыс -у *m.*

**estimation** [ˌestɪˈmeɪʃən] n. 1. меркаваньне *n.*, думка *f.*: ***in my estimation*** на маю думку. 2. пашана, павага *f.*

**Estonian** [eˈstoʊniən] – adj. эстонскі
– n.1. эстон|ец -ца *m.*, эстонка *f.* 2. эстонская мова

**estrade** [eˈstrɑ:d] n. 1. узвышаная пляцоўка, плятформа *f.* 2. эстрада *f.* (*для артыстаў*)

**estrange** [ˈestreɪndʒ] v.t. 1. адчужаць, адштурхоўваць, аддаляць. 2. пакідаць, адыходзіць ад *чаго*: ***estranged from politics*** адыйшоў ад палітыкі

**estrangement** [ˈestreɪndʒmənt] n. адчужэньне *n.*

**estuary** [ˈestʃueri] n., pl. **-aries** 1. шырокае вусьце ракі. 2. вусьце ў мора

**etc.** (lat. et cetera) [etˈsetərə] 1. і гэтак далей (і г.д.). 2. і іншыя, і рэшта

**etching** [ˈetʃɪŋ] n. 1. гравіроўка *f.* 2. гравюра *f.*, афорт -у *m.*

**eternal** [ɪˈtɜ:rnəl] adj. 1. вечны; вячысты (*дуб*), векавечны. 2. адвечны, спрадвечны (*балоты*). 3. нязьменны

**eternally** [ɪˈtɜ:rnəli] adv. 1. вечна, назаўсёды. 2. заўсёды; стала; безупынна

**eternity** [ɪˈtɜ:rnəti] n., pl. **-ties** вечнасьць *f.*

**ether** [ˈi:θər] n. 1. Chem. этэр -у *m.* 2. неба -а *n.*, нябёсы *pl. only*

**ethereal** [ɪˈθɪriəl] adj. 1. лёгкі; паветраны; далікатны. 2. незямны; нябесны. 3. Chem. этэрны

**ethical** [ˈeθɪkəl] adj. этычны; маральны

**ethics** [ˈeθɪks] n. 1. (sing. in use) этыка *f.* (*навука*). 2. (pl. in use) мараль *f.*; этыка *f.* (*прафэсійная*)

**ethnic** [ˈeθnɪk] adj. этнічны.

**ethnography** [eθˈnɑ:grəfi] n. этнаграфія *f.*

**etiquette** [ˈetɪket] n. 1. этыкет -у *m.* 2. прафэсійная этыка

**etymology** [ˌetəˈmɑ:lədʒi] n., pl. **-gies** 1. паходжаньне слова. 2. этымалёгія *f.* (*навука*)

**eulogize** [ˈjuːlədʒaɪz] v.t. усхваляць, расхваляць, праслаўляць
**eulogy** [ˈjuːlədʒi] n., pl. **-gies** хвалёбная прамова, усхваленьне *n.* (*асабл. нябожчыка*), панэгірык -у *m.*
**euphemism** [ˈjuːfəˌmɪzəm] n. эўфэмізм -у *m.*, злагоджаны выраз: ***"Pass away" is common euphemism for "die"*** «Адыйсьці» — звычайна ўжываны эўфэмізм для «памерці».
**European** [ˌjʊrəˈpiːən] – adj. эўрапейскі – n. эўрапе́|ец -йца *m.*, эўрапейка *f.*
**evacuate** [ɪˈvækjueɪt] v.t. 1. эвакуаваць, вывозіць. 2. апаражняць (*месца, пасудзіну*)
**evacuation** [ɪˌvækjuˈeɪʃən] n. 1. эвакуацыя *f.* 2. апаражненьне *n.*
**evade** [ɪˈveɪd] v. 1. унікаць; ухіляцца, не давацца; выкручвацца (*зь бяды*)
**evaluate** [ɪˈvæljueɪt] v.t. ацэньваць; вызначаць цану, колькасьць, якасьць
**evaluation** [ɪˌvæljuˈeɪʃən] n. 1. ацэнка *f.* 2. ацэненая вартасьць, аблічаны кошт
**evanescent** [ˌevəˈnesənt] adj. 1. мімалётны, які хутка зьнікае, хутка праходзіць. 2. нетрывалы: ***the evanescent beauty of the sunset*** мімалётная краса заходу сонца
**Evangel** [ɪˈvændʒəl] n. адно з чатырох эвангельляў (*Мацьвея, Марка, Лукі ці Яна*)
**evangel** [ɪˈvændʒəl] n. 1. Эвангельле, Дабравесьце *n.* 2. добрая вестка. 3. эвангеліст -а *m.*
**evangelic** [ˌiːvænˈdʒəlɪk] or **evangelical** [ˌiːvænˈdʒəlɪkəl] – adj. 1. эвангельскі, эвангелічны. 2. пратэстанцкі
– n. пратэстант -а *m.*
**evaporate** [ɪˈvæpəreɪt] – v.i. 1. паравацъ. 2. выпарвацца. 3. выпарвацца, зьнікаць (*пра радасьць, добрыя намеры*)
– v.t. 1. выпарваць, згушчаць. 2. выпарваць, замяняць у пару
**evaporation** [ɪˌvæpəˈreɪʃən] n. 1. выпарэньне *n.* 2. выпарэньні *pl. only*
**evaporator** [ɪˈvæpəreɪtər] n. выпарнік -а *m.* (*прылада*)
**evasion** [ɪˌveɪʒən] n. 1. уніканьне, ухіленьне *n.*, выкрутка *f.* 2. выкруты *pl.*
**eve** [iːv] n. пярэдадне *n.*, пярэда|дзень -дня *m.*: ***Christmas Eve*** куцьця *f.*
**even** [ˈiːvən] – adj. 1. з роўнай паверхняй; гладкі. 2. роўны; аднолькавы; раўнамерны: ***with an even motion*** роўным ходам; ***in even shares*** пароўну, на роўныя часткі; ***even distribution*** раўнамернае разьмеркаваньне. 3. цотны: ***even number*** цотны лік. 4. дакладны, якраз. 5. спакойны, ураўнаважаны (*характар*)
– adv. 1. роўна, пароўну. 2. якраз; нават; аж: ***even unto death*** аж да сьмерці; ***even if,*** Informal хоць бы, нават, нат
• ***be/get even*** а) ня быць вінаватым, расквітацца. б) памсьціцца
**evening** [ˈiːvnɪŋ] – n. 1. вечар -а *m.*: ***Good evening!*** Добры вечар!; ***in the evening*** увечары; пад вечар. 2. прыняцьце *n.*, вечарына *f.*, вечар -у *m.*
– adj. вячэрні, вячорны: ***evening dress*** вячэрняя вопратка; ***evening gown*** вячэрняя сукенка, сукня
**evenly** [ˈiːvənli] adv. 1. гладка, роўна, роўненька (*размазаць*). 2. роўным ходам, з роўнай хуткасьцю (*ісьці*). 3. пароўну: ***to divide evenly*** разьдзяліць пароўну
**event** [ɪˈvent] n. 1. важная падзея; здарэньне *n.*, выпад|ак -ку *m.* 2. вынік -у *m.* 3. нумар у спартовых спаборніцтвах
• ***in any event*** у кожным разе
• ***in the event of*** у выпадку *чаго*, калі б што было
**eventual** [ɪˈventʃuəl] adj. 1. магчымы, эвэнтуальны. 2. канчатковы, апошні
**eventually** [ɪˈventʃuəli] adv. канчаткова; у рэшце рэшт
**ever** [ˈevər] adv. 1. калі-небудзь: ***Is she ever at home?*** Ці яна калі-небудзь бывае дома? 2. заўсёды, увесь час. 3. наагул; ува ўсякім разе
• ***ever and again*** а) час-часом. б) бесьперапынна
• ***ever so*** вельмі
• ***for ever and a day*** заўсёды, назаўсёды

**everglade** [ˈevərgleɪd] n. балацістая нізіна (*мéсцамі парóслая высóкай травóю*); вялíкае балóта, бáгна *f.*

**evergreen** [ˈevərgri:n] – adj. вéчназялёны
– n. вéчназялёная расьліна

**everlasting** [ˌevərˈlæstɪŋ] – adj. вéчны; бяскóнцы
– n. вéчнасьць *f.*

**everlastingly** [ˌevərˈlæstɪŋli] adv. вéчна; бяскóнца

**evermore** [ˌevərˈmɔ:r] adv. заўсёды; назаўсёды
• ***for ever more*** навéкі, навéк; павéк

**every** [ˈevri] adj. 1. кóжны, кáжны. 2. усякі
• ***every Monday*** штопанядзéлку
• ***every now and then*** час-часóм, зрэ́дку, раз-пóраз

**everybody** [ˈevriˌbɑ:di] pron. кóжны (*чалавéк*), усé: ***everybody's*** усíхны

**everyday** [ˌevriˈdeɪ] adj. 1. штодзённы. 2. бýдні, будзённы, звычáйны. 3. надзённы: ***in everyday life*** у штодзённым жыцьцí

**everyone** [ˈevriwʌn] pron. кóжны чалавéк, усé

**everything** [ˈevriθɪŋ] pron. усё, кóжная рэч

**everywhere** [ˈevrihwer] adv. усюды, скрозь

**evict** [ɪˈvɪkt] v.t. 1. выганяць. 2. высяляць, выкідáць (*з кватэ́ры, гаспадáркі*)

**evidence** [ˈevɪdəns] – n. 1. знак -у *m.*; дóвад -у *m.* 2. Law a) дóказ -у *m.*, сьвéдчаньне *n.* б) сьвéдк|а -і *m. & f.*
– v.t. 1. ясна пакáзваць, быць дóвадам, давóдзіць. 2. падтрымáць сьвéдчаньнем

**evident** [ˈevɪdənt] adj. 1. відавóчны, яўны; ясны: ***it was evident that*** былó відавóчна, што ...

**evidently** [ˈevɪdəntli] adv. прóста; відавóчна; ясна

**evil** [ˈi:vəl] – adj. 1. злы, ліхí, благí; немарáльны; грэ́шны: ***an evil life*** немарáльнае жыцьцё; ***an evil reputation*** благáя апінія. 2. згýбны, пагíбельны. 3. нешчасьлíвы: ***evil days*** нешчасьлíвыя дні
– n. 1. зло, ліха *n.*; грэх грахý *m.*; злóсная вы́хадка, злóсны вы́брык; злы ўчы́нак. 2. няшчáсьце *n.*, шкóда *f.*; кры́ўда *f.*

**evince** [ɪˈvɪns] v.t. 1. праяўляць, выяўляць. 2. пакáзваць

**evoke** [ɪˈvoʊk] v.t. 1. выклікáць (*сьмех*); узбуджáць (*запáл, успаміны*). 2. Law выклікáць спрáву зь ніжэ́йшага ў вышэ́йшы суд

**evolution** [ˌevəˈlu:ʃən] n. 1. разьвіцьцё *n.*; эвалюцыя *f.* 2. Math. каранявáньне. 3. Milit. перастраéньне; перамяшчэ́ньне, перакідáньне *n.* (*вóйска, флёту*)

**evolutional** [ˌevəˈlu:ʃənəl] or **evolutionary** [ˌevəˈlu:ʃəneri] adj. эвалюцы́йны

**evolve** [ɪˈvɑ:lv] v.i. 1. паступóва разьвівáцца, выпрацóўвацца. 2. Biol. разьвівáцца шляхам эвалюцыі, эвалюцыянавáць. 3. выдзяляць, вылучáць (*гáзы, цяплó*)

**ewe** [ju:] n. авéчка *f.*

**exact** [ɪgˈzækt] – adj. 1. даклáдны; зусíм прáвільны; акурáтны: ***the exact amount*** даклáдная кóлькасьць. 2. стрóгі (*парáдак, прáвіла*)
– v.t. 1. спаганяць (*плáту, доўг*). 2. вымагáць (*вы́сілку, старáньня*)

**exacting** [ɪgˈzæktɪŋ] adj. 1. патрабавáльны: ***an exacting teacher*** патрабавáльны настáўнік. 2. які вымагáе вы́сілку, напрýжаньня, увáгі (*пра прáцу*)

**exactly** [ɪgˈzæktli] adv. даклáдна, рóўна; якрáз: ***exactly half a dollar*** рóўна паўдаляра

**exactness** [ɪgˈzæktnəs] n. даклáднасьць, акурáтнасьць *f.*

**exact science** даклáдная навýка

**exaggerate** [ɪgˈzædʒəreɪt] v.t. перабóльшваць; залíшне падкрэ́сьліваць

**exaggerated** [ɪgˈzædʒəreɪtəd] adj. перабóльшаны (*чýткі, уяўлéньне*), дýты (*пра лічбы*)

**exaggeration** [ɪgˌzædʒəˈreɪʃən] n. перабо́льшваньне, перабо́льшаньне *n.*

**exalt** [ɪgˈzɔ:lt] v.t. 1. узвыша́ць; павыша́ць (*у ра́нзе*). 2. усхваля́ць, узно́сіць да не́ба. 3. уздыма́ць настро́й. 4. узмацня́ць, згушча́ць (*фа́рбы, каляры́т*)

**exaltation** [ˌegzɔ:lˈteɪʃən] n. 1. павышэ́ньне, узвышэ́ньне *n.* 2. захапле́ньне *n.*; стан узбу́джанасьці; надме́рная ўзбуджа́льнасьць; экзальта́цыя *f.*

**exam** [ɪgˈzæm] n., Informal экза́мэн, іспы́т -у *m.*

**examination** [ ɪgˌzæmɪˈneɪʃən] n. 1. экза́мэн, іспы́т -у *m.*: ***to pass an examination*** здаць экза́мэн. 2. дасьле́даваньне *n.*, разгля́д -у *m.* (*папе́раў*). 3. агля́д -у *m.* (*ле́карскі*), праве́рка *f.* 4. Law до́пыт -у *m.* (*сьве́дкаў*)

**examine** [ɪgˈzæmɪn] v.t. 1. аглядáць (*ра́ну*); разгляда́ць, правяра́ць. 2. экзамэнава́ць (*ву́чня*). 3. дапы́тваць (*сьве́дку*)

**example** [ɪgˈzæmpəl] – n. 1. пры́клад -у *m.*: ***for example*** пры́кладам, напры́клад. 2. узо́р -у *m.*

• ***make an example of someone*** пакара́ць каго́-н. для перасьцяро́гі і́ншым

• ***set an example*** паказа́ць пры́клад

• ***without example*** бяспры́кладны; нечува́ны, небыва́лы

– v.t. 1. быць пры́кладам. 2. паказ́ваць пры́клад

**exasperate** [ɪgˈzæspəreɪt] v.t. 1. злава́ць, раздражня́ць. 2. а) выклікáць го́рыч, пагарша́ць (*благо́е адчува́ньне, хваро́бу, боль*). б) паглыбля́ць, узмацня́ць (*варо́жасьць, лю́тасьць*), разьвярэ́джваць (*ра́ну*)

**exasperation** [ɪgˌzæspəˈreɪʃən] n. 1. раздражне́ньне *n.* 2. раздражнёнасьць, злосьць *f.*

**excavate** [ˈekskəveɪt] v.t. 1. выко́пваць, капа́ць (*я́му, тунэ́ль*). 2. выбіра́ць зямлю́. 3. раско́пваць (*право́дзіць раско́пкі*)

**excavation** [ˌekskəˈveɪʃən] n. 1. капа́ньне, выко́пваньне *n.* (*я́мы*), экскава́цыя *f.* 2. раско́пваньне *n.*; раско́пкі *pl.* 3. я́ма *f.*, вы́емка ў гру́ньце; катлава́н -у *m.*

**excavator** [ˈekskəveɪtər] n. землячарпа́лка *f.*, экскава́тар -а *m.*

**exceed** [ɪkˈsi:d] v.t. 1. перавыша́ць, быць бо́льшым за *што.* 2. выхо́дзіць за ме́жы, перасяга́ць: ***Do not exceed the speed limit*** Не перавыша́йце максыма́льнае ху́ткасьці

**exceeding** [ɪkˈsi:dɪŋ] adj. празьме́рны

**excel** [ɪkˈsel] – v.t., **(-ll-)** перасяга́ць, перавыша́ць (*і́ншых*), быць ле́пшым (*за і́ншых*): ***He excelled his friends in mathematics*** Ён быў ле́пшы за сваі́х сябро́ў у матэма́тыцы

– v.i. (in) вылуча́цца, адзнача́цца: ***he excelled in wisdom*** ён адзнача́ўся му́драсьцю

**excellence** [ˈeksələns] n. 1. дасканáласьць, выда́тнасьць *f.* 2. перава́га *f.*

**excellency** [ˈeksələnsi] n. = **excellence**

**Excellency** [ˈeksələnsi] n., pl. **-cies** Эксцэле́нцыя (*ты́тул*): ***Your Excellency*** Эксцэле́нцыя, Ва́шая Эксцэле́нцыя

**excellent** [ˈeksələnt] adj. выда́тны, даскана́льны, даскана́лы; узо́рны, беззага́нны

**except** [ɪkˈsept] – prep. за вы́няткам, апрача́, акрамя́: ***except Sunday*** апрача́ нядзе́лі

– v.t. выключа́ць

– v.i. пярэ́чыць, не згаджа́цца

• ***except for*** а) калі́ б не: ***I would go with you except for my headache*** Я б пайшо́ў з табо́ю, калі́ б мне не бале́ла галава́. б) за вы́няткам

**exception** [ɪkˈsepʃən] n. 1. вы́нят|ак -ку *m.*: ***with the exception of …*** за вы́няткам *каго́-чаго́.* 2. пярэ́чаньне, запярэ́чаньне *n.*: ***to take exception*** а) не згаджа́цца з *чым*, пярэ́чыць. б) чу́цца абра́жаным

**exceptionable** [ɪkˈsepʃənəbəl] adj. 1. які́ падляга́е кры́тыцы. 2. які́ выклі́кае засьцяро́гу; небездако́рны

**exceptional** [ɪkˈsepʃənəl] adj. асаблі́вы, незвыча́йны, рэ́дкі; выклю́чны, вынятко́вы

**excerpt** [ˈeksɜ:rpt] – n. урыǀвак -ўку *m.*; вы́нятка *f.*; цыта́та *f.*
– v.t. [ekˈsɜ:rpt] выбіра́ць (*вы́цягі, уры́ўкі*), цытава́ць

**excerption** [ekˈsɜ:rpʃən] n. 1. выбіра́ньне ўры́ўкаў, вы́цягаў. 2. уры́ǀвак -ўку, вы́трымка *f.*

**excess** [ıkˈses] – n. 1. лі́шǀак -ку *m.*, не́шта лі́шняе: ***Pour off the excess*** Адлі́це лі́шак. 2. кра́йнасьць *f.*, эксцэ́с -у *m.* 3. няўстры́манасьць, празьме́рнасьць *f.*: ***in excess of*** звыш, больш за, з га́кам.
• ***to excess*** зашма́т: ***He eats to excess*** Ён есьць зашма́т
– adj. [ˈekses] вышэ́й но́рмы; дадатко́вы: ***excess baggage on an airplane*** бага́ж вышэ́й но́рмы на самалёце; ***excess fare*** даплата (*за лі́шні багаж*)

**excessive** [ıkˈsesıv] adj. празьме́рны, бязьме́рна высо́кі (*пра цэ́ны*)

**exchange** [ıksˈtʃeındʒ] – v.t. 1. мяня́ць. 2. выме́ньваць (*валю́ту, тава́р*); разьме́ньваць (*гро́шы на драбне́йшыя*). 3. мяня́цца (*ме́сцамі*), абме́ньвацца (*ду́мкамі, но́тамі, ліста́мі*). 4. абме́ньваць: ***to exchange shoes*** абмяні́ць чаравікі. 5. абме́ньваць (*пало́нных*)
– n. 1. заме́на *f.*, абме́н -у *m.*; ме́на *f.* (*тава́раў, пало́нных, ду́мак*): ***exchange of goods*** тавараабме́н -у *m.*; ***in exchange for*** узаме́н за. 3. бі́ржа *f.*: ***stock exchange*** фіна́нсавая бі́ржа. 4. цэнтра́льная ста́нцыя: ***a telephone exchange*** цэнтра́льная тэлефо́нная ста́нцыя
• ***the rate of exchange*** валю́тны курс

**exchanging** [ıksˈtʃeındʒıŋ] n. заме́на *f.*

**exchangeable** [ıksˈtʃeındʒəbəl] adj. які́ мо́жна адмяні́ць, заме́нны
• ***exchangeable value*** менава́я ва́ртасьць

**exchequer** [ıksˈtʃekər] n. 1. дзяржа́ўны скарб *або́* фіна́нсы, фо́нды, фіск -у *m.* 2. Brit. міністэ́рства ска́рбу

**excitability** [ıkˌsaıtəˈbıləti] n. узбуджа́льнасьць *f.*

**excitable** [ıkˈsaıtəbəl] adj. лёгка ўзбуджа́льны

**excite** [ıkˈsaıt] v.t. 1. трыво́жыць, хваля-ва́ць. 2. выкліка́ць, распа́льваць (*ціка́васьць*): ***to excite envy, appetite*** выкліка́ць за́йздрасьць, апэты́т; ***to excite desire*** распа́льваць жада́ньне. 3. узбуджа́ць; падыма́ць (*да дзе́йнасьці, на паўста́ньне*). 4. утвара́ць электры́чнае *або́* магні́тнае по́ле

**excited** [ıkˈsaıtəd] adj. 1. узбу́джаны, усхвалява́ны; узбу́раны; узбунтава́ны (*нато́ўп*). 2. электрызава́ны, намагні́чаны

**excitedly** [ıkˈsaıtədli] adv. узбу́джана, узбу́рана; усхвалява́на

**excitement** [ıkˈsaıtmənt] n. 1. падбухто́рваньне *n.* 2. узбуджэ́ньне *n.*. 3. узбу́джаньне *n.*, узбу́джанасьць *f.*, хвалява́ньне *n.*

**exciting** [ıkˈsaıtıŋ] adj. які́ хвалю́е, займа́льны, захапля́льны (*прыго́да, апавяда́ньне*), хвалю́ючы

**exclaim** [ıksˈkleım] v. вы́крыкнуць,, кры́кнуць; ускліќнуць

**exclamation** [ˌeksklәˈmeıʃən] n. 1. вы́крык, во́клік -у *m.*; во́кліч -у *m.* 2. выклі́чнік -а *m.*: ***Ah! and oh! are exclamations*** Ах! і ох! — выклі́чнікі
• ***exclamation mark (!)*** клі́чнік -а *m.*

**exclude** [ıkˈsklu:d] v.t. 1. затрымо́ўваць, не прапуска́ць, не ўпуска́ць: ***Curtains exclude light*** Фіра́нкі не прапуска́юць сьвятла́. 2. адкіда́ць, выключа́ць; выдаля́ць

**exclusion** [ıkˈsklu:ʒən] n. выключэ́ньне, выдале́ньне, звальне́ньне *n.*

**exclusive** [ıkˈsklu:sıv] adj. 1. асаблі́вы; выклю́чны: ***exclusive privileges*** асаблі́выя прывіле́і. 2. недасту́пны для ўсіх, з абмежава́ным до́ступам (*пра шко́лу, клюб*)

**excommunicate** [ˌekskәˈmju:nıkeıt] – v.t. 1. абвяшча́ць ана́тэму; адлуча́ць ад царквы́. 2. выключа́ць, выкіда́ць (*з арганіза́цыі*)
– n. адлу́чаны *m.*, адлу́чаная *f.*
– adj. адлу́чаны; вы́ключаны

**excommunication** [ˌekskəˌmju:nɪˈkeɪʃən] n. ана́тэма *f.*, адлучэ́ньне ад царквы́
**excrement** [ˈekskrɪmənt] n. экскрэмэ́нты *pl. only* (*кал, мача́*)
**excruciating** [ɪkˈskru:ʃieɪtɪŋ] adj. ве́льмі балю́чы, нясьце́рпны (*боль*); паку́тлівы
**exculpate** [ˈekskʌlpeɪt] v.t. апра́ўдваць
**exculpation** [ˌekskʌlˈpeɪʃən] n. апраўда́ньне *m.*
**excursion** [ɪkˈskɜ:rʒən] n. 1. вандро́ўка, экску́рсія *f.* 2. пае́здка *f.* 3. адыхо́д ад тэ́мы, дыгрэ́сія *f.*, э́кскурс -у *m.*
**excursionist** [ɪkˈskɜ:rʒənɪst] n. экскурса́нт -а *m.*, экскурса́нтка *f.*
**excusable** [ɪkˈskju:zəbəl] adj. выбача́льны, прабача́льны, праба́чны; дарава́льны
**excuse** [ɪkˈskju:z] – v. 1. выбача́ць, прабача́ць, дарава́ць: ***Excuse me!*** Выбача́йце! 2. апра́ўдвац|ь (-ца). 3. вызваля́ць (*ад экза́мэну*), быць вы́зваленым
– n. 1. адгаво́рка *f.*, вы́крут -у *m.* 2. выбачэ́ньне *n.* 3. апраўда́ньне -я *n.*
• ***excuse oneself*** а) выбача́цца. б) прасі́ць дазво́лу адыйсьці́
**execrable** [ˈeksɪkrəbəl] adj. агі́дны; бры́дкі; паску́дны: ***an execrable villain*** агі́дны няго́днік
**execute** [ˈeksɪkju:t] v.t. 1. выко́нваць (*зага́д*). 2. право́дзіць у жыцьцё, рабі́ць дзе́йным (*зако́н*). 3. кара́ць сьме́рцю. 4. рабі́ць паво́дле пля́ну ці ўзо́ру. 5. выко́нваць (*гімнасты́чны ну́мар*), гра́ць (*музы́чны твор*). 6. афармля́ць (*дакумэ́нт, умо́ву, кантра́кт*)
**execution** [ˌeksɪˈkju:ʃən] n. 1. выкана́ньне *n.* 2. увядзе́ньне ў жыцьцё зако́ну. 3. пакара́ньне сьме́рцю, экзэку́цыя *f.* 4. афармле́ньне (*дакумэ́нту, кантра́кту*)
**executioner** [ˌeksɪˈkju:ʃənər] n. кат -а *m.*
**executive** [ɪgˈzekjətɪv] – adj. 1. выкана́ўчы (*камітэ́т, ула́да*). 2. адміністрацы́йны
– n. 1. выкана́ўчая ўла́да, во́рган
• ***Chief Executive*** прэзыдэ́нт -а *m.*
• ***the chief executive*** 1. а) губэрна́тар шта́ту. б) мэр го́раду. 2. адміністра́тар (*фі́рмы, кампа́ніі*), службо́вая асо́ба
**executor** [ɪgˈzekjətər] n. 1. выкана́ўца тэстамэ́нту. 2. [ˈegzəkjətər] выкана́ўца (*пля́ну, пра́ва, зага́ду*)
**exempt** [ɪgˈzempt] – adj. вы́звалены (*ад пада́тку, вайско́вае слу́жбы*)
– v.t. вызваля́ць (*ад пада́тку*)
**exercise** [ˈeksərsaɪz] – n. 1. практыкава́ньне *n.* 2. фізы́чная зара́дка. 3. карыста́ньне *n.*: ***exercise of a civil right*** карыста́ньне пра́вам асабі́стае свабо́ды
– v.t. 1. трэнава́ць. 2. карыста́цца (*пра́вам*). 3. выко́нваць (*абавя́зкі*)
• ***exercise an influence*** мо́цна ўплыва́ць, мець ўплы́ў
• ***exercise caution*** быць асьцяро́жным
– v.i. практыкава́цца
**exercises** цырымо́нія *f.*, абра́д -у *m.*
**exercise book,** esp. Brit. сшыт|о́к -ка́, сшы́т|ак -ка *m.*
**exert** [igˈzɜ:rt] v.t. 1. напру́жваць: ***to exert strength*** напру́жваць сі́лу. 2. уплыва́ць: ***to exert authority*** праяўля́ць ула́ду
• ***exert oneself*** мо́цна напру́жвацца, стара́цца
**exertion** [igˈzɜ:rʃən] n. 1. напру́жаная дзе́йнасьць, вы́сілкі *pl.*, намага́ньне *n.* 2. прая́ва (*ула́ды*)
**exhale** [eksˈheɪl] v. 1. выдыха́ць . 2. выдзяля́ц|ь (-ца) (*пах. паве́тра, дым*). 3. выпаро́ўваць, выпаро́ўвацца
**exhaust** [igˈzɔ:st] – v.t. 1. вычэ́рпваць (*ваду́, цярплі́васьць*). 2. по́ўнасьцю тра́ціць, вычэ́рпваць (*гро́шы, запа́сы*). 3. стамля́ць, мардава́ць, зьнясі́льваць. 4. выця́гваць, выпампо́ўваць паве́тра. 5. вычэ́рпваць (*тэ́му*). 6. спусташа́ць (*гле́бу*)
– v.i. выхо́дзіць (*пра газ*)
– n. 1. Tech. вы́хлап -у *m.*, выхлапна́я труба́, вы́пуск -у *m.* 2. Tech. адпрацава́ная па́ра (*газ, паве́тра*)

**exhausted** [ig'zɔ:stɪd] adj. 1. сто́млены, зьнясі́лены, змардава́ны. 2. вы́чарпаны (*вада́, запа́с*). 3. спусто́шаны (*гле́ба*)

**exhaustion** [ig'zɔ:stʃən] n. 1. вычэ́рпваньне, вычарпа́ньне, выкарыста́ньне *n.* 2. сто́мленасьць, змардава́насьць *f.*, зьнясі́леньне, зьнемажэ́ньне *n.* 3. спусташэ́ньне *n.* (*гле́бы*)

**exhaustive** [ig'zɔ:stɪv] adj. 1. які́ вычэ́рпвае (*сі́лы, запа́сы*). 2. вычарпа́льны (*адка́з*), усебако́вы (*характары́стыка*); даўгі́, дакла́дны (*экза́мэн, справазда́ча*)

**exhibit** [ig'zɪbət] – v. 1. пака́зваць, выяўля́ць (*злосьць, зацікаўле́ньне*) 2. рабі́ць выста́ву

– n. 1. мала́я выста́ва *f.*, пака́з -у *m.* 3. экспана́т -у *m.*

**exhibition** [ˌeksɪ'bɪʃən] n. 1. пака́з -у *m.*: ***exhibition of bad manners*** выяўле́ньне дрэ́нных мане́раў. 2. публі́чная выста́ва. 3. экспана́т -у *m.*

**exhume** [ɪg'zu:m] v.t. выко́пваць з магі́лы *ці* зь зямлі́

**exile** ['eksaɪl] – n. 1. выгна́ньне *n.*, ссыла́ньне *n.*; ссы́лка *f.* 2. выгна́н|ец -ца *m.*, выгна́ньнік -а *m.*

– v.t. ссыла́ць, высыла́ць

**exist** [ig'zɪst] v.i. 1. існава́ць . 2. быва́ць; здара́цца; сустрака́цца: ***Lime exists in many soils*** Ва́пна сустрака́ецца ў шмат які́х гле́бах

**existence** [ig'zɪstəns] n. 1. існава́ньне *n.*, быт -у *m.*, быцьцё *n.*; жыцьцё *n.* 2. ная́ўнасьць *f.* 3. істо́та *f.*

**exit** ['egzət] – n. 1. вы́хад, вы́езд -у *m.*; адыхо́д -у *m.*: ***The theatre had six exits*** Тэа́тар меў шэсьць вы́хадаў. 2. Informal сьмерць *f.*

– v.i. выхо́дзіць; адыхо́дзіць

**ex libris** [ˌeks'li:brɪs] n. 1. зь бібліятэ́кі *каго́.* 2. экслі́брыс

**exodus** ['eksədəs] n. ма́савы вы́езд, вы́ход (*асабл. пра эмігра́нтаў*).

• ***Exodus*** 1. вы́хад гэбра́яў з Эгі́пту. 2. Вы́хад (*друга́я кні́га Старо́га Запаве́ту*)

**exonerate** [ɪg'zɑ:nəreɪt] v.t. 1. апра́ўдваць, абвяшча́ць невінава́тым, ачышча́ць ад віны́, за́кіду 3. вызваля́ць ад абавя́зку, абяца́ньня

**exorbitant** [ɪg'zɔ:rbətənt] adj. надме́рны; бязьме́рна вялі́кі (*пра цану́*)

**exorcise** or **exorcize** ['eksɔ:rsaɪz] v.t. заклі́наць, выганя́ць зло́га ду́ха

**exotic** [ɪg'zɑ:tɪk] – adj. 1. заме́жны, нязвы́клы, немясцо́вы: ***exotic plants*** заме́жныя расьлі́ны. 2. Informal экзаты́чны

– n. экзо́тыка *f.*

**expand** [ɪk'spænd] – v.t. 1. пашыра́ць: ***to expand one's rule*** пашы́рыць сваю́ ўла́ду. 2. распасьці́раць (*кры́лы*); распушча́ць (*гальлё, ве́тразь*). 3. гавары́ць падрабя́зна. 4. Math. раскрыва́ць фо́рмулу, ду́жкі

– v.i. 1. пашыра́цца. 2. распуска́цца (*пра пупы́шкі*)

**expanse** [ɪk'spæns] n. 1. абша́р -у *m.*, прасто́ра; разьле́гласьць, даль *f.* 2. раздо́льле *n.*

**expansion** [ɪk'spæntʃən] n. 1. пашырэ́ньне *n.* (*ме́жаў*), расшырэ́ньне *n.* (*га́зу, мэта́лу*). 2. пабо́льшаньне, разбудава́ньне *n.* (*інду́стрыі*). 3. экспа́нсія *f.* 4. Math. раскрыцьцё фо́рмулы, ду́жак

**expatiate** [ek'speɪʃieɪt] v.i. 1. (on) развo̗дзіць гавары́льню; расьпі́сваццa. 2. блука́ць (*у ду́мках*)

**expatriate** [eks'peɪtrieɪt] – v.t. 1. ссыла́ць на выгна́ньне, пазбаўля́ць грамадзя́нства. 2. (oneself) адмаўля́цца ад грамадзя́нства свайго́ кра́ю

– adj. [eks'peɪtriət] выгна́нскі, эмігра́нцкі

– n. выгна́ньнік, эмігра́нт -а *m.*

**expatriation** [eksˌpeɪtri'eɪʃən] n. 1. выгна́ньне *n.* 2. эмігра́цыя *f.*, адмаўле́ньне ад свайго́ грамадзя́нства

**expect** [ɪk'spekt] v.t. 1. чака́ць, спадзява́цца. 2. разьлі́чваць, спадзява́цца. 3. Informal ду́маць

**expectation** [ˌekspek'teɪʃən] n. чака́ньне; спадзява́ньне

**expedience** [ɪkˈspi:diəns] or **expediency** [-si] n., pl. **-cies** 1. спра́ўнасьць *f.* 2. выго́днасьць; карысна́сьць, мэтазго́днасьць *f.* 3. асабі́стая выго́да, кары́сьць, своекары́сьлівасьць *f.*

**expedient** [ɪkˈspi:diənt] – adj. 1. мэтазго́дны, дамэ́тны, спра́ўны; адпаве́дны абста́вінам, выго́дны. 2. своекары́сьлівы
– n. спо́саб -у *m.*, сро́дlак -ку *m.* (*для асягне́ньня мэ́ты*): ***political expedients*** палітычныя хі́трыкі

**expedite** [ˈekspədaɪt] – v.t. 1. палягча́ць; прысьпе́шваць; паскара́ць. 2. ху́тка выко́нваць, зала́джваць 3. афіцы́йна выдава́ць (*дакумэ́нт*)
– adj. 1. во́льны (*ад перашко́даў*). 2. ху́ткі, спры́тны (*пра чалаве́ка*), спра́ўны, гато́вы, прыда́тны да ўжы́тку (*пра прыла́ду*)

**expedition** [ˌekspəˈdɪʃən] n. 1. экспэды́цыя *f.* 2. спра́ўнае, ху́ткае дзе́яньне; ху́ткасьць *f.*

**expel** [ɪkˈspel] v.t. 1. выпі́хваць, вы́штурхоўваць. 2. выганя́ць; выключа́ць; выкіда́ць: ***to expel from school*** вы́ключыць са шко́лы

**expend** [ɪkˈspend] v.t. выдатко́ўваць (*гро́шы*); тра́ціць

**expenditure** [ɪkˈspendɪtʃər] n. 1. выда́тlак -ку *m.* 2. укла́д -у *m.*, затра́та *f.* (*ча́су, пра́цы, стара́ньняў*)

**expense** [ɪkˈspens] n. 1. кошт -у *m.*: ***at someone's expense*** на чый-н. кошт, за чый-н. кошт; на чые́-н. гро́шы. 2. выда́тlак -ку *m.* 3. стра́та, цана́ *f.*
• ***at the expense of his job*** цано́ю сваé пра́цы
• ***expenses*** выда́ткі (*зьвя́заныя з чым-н.*)

**expensive** [ɪkˈspensɪv] adj. кашто́ўны, дарагí

**expensively** [ɪkˈspensɪvli] adv. до́рага, бага́та, замо́жна (*жыць*)

**experience** [ɪkˈspɪriəns] – n. 1. перажыва́ньне *n.*, выпа́дlак -ку *m.*; до́сьвед -у *m.*: ***a pleasant experience*** прые́мны до́сьвед. 2. спрактыкава́насьць, пра́ктыка, дасьве́дчанасьць, кваліфіка́цыя *f.*: ***to know by experience*** пераканáцца на пра́ктыцы
– v.t. 1. дазнава́ць, зазнава́ць; пераЖыва́ць, адчува́ць: ***In life you experience both joy and sorrow*** У жыцьці́ зазна́еш і ра́дасьць і го́ра

**experienced** [ɪkˈspɪriənst] adj. 1. дасьве́дчаны. 2. наву́чаны до́сьведам *або́* пра́ктыкай. 3. спрактыкава́ны; дасьве́дчаны

**experiment** [ɪkˈsperɪmənt] – n. 1. до́сьлед -у, экспэрымэ́нт -у *m.* 2. дасьле́даваньне *n.*
– v.i. право́дзіць до́сьледы, дасьле́даваць

**expert** [ˈekspз:rt] – n. 1. знаlве́ц -ўца́ *m.& f.*, зна́ўцlа -ы *m. & f.*, ма́йстрlа -ы *m.*, экспэ́рт, спэцыяліст -а *m.*
– adj. высо́какваліфікава́ны; спрактыкава́ны, зь вялі́кімі ве́дамі, дасьве́дчаны

**expertise** [ˌekspз:rˈti:z] n. вывучэ́ньне, дасьле́даваньне, экспэртыза *f.*

**expiate** [ˈekspieɪt] v.t. адкупля́ць (*віну́, грэх*); загла́джваць, выкупля́ць (*кры́ўду, віну́*)

**expire** [ɪkˈspaɪr] v.t. 1. канча́цца (*пра тэ́рмін*). 2. паміра́ць. 3. выдыха́ць (*паве́тра*)

**explain** [ɪkˈspleɪn] v.t. 1. тлума́чыць, вытлума́чваць, растлума́чваць. 2. дава́ць прычы́ну
• ***explain oneself*** вы́тлумачыцца, апраўда́цца

**explanation** [ˌekspləˈneɪʃən] n. 1. тлумачэ́ньне, растлумачэ́ньне *n.* 2. гу́тарка *f.* (*каб вы́ясьніць непаразуме́ньне*)

**explanatory** [ɪkˈsplænetɔ:ri] adj. паясьня́льны, тлумача́льны

**explicable** [ɪkˈsplɪkəbəl] adj. вытлумача́льны, які́ мо́жна вы́тлумачыць

**explicit** [ɪkˈsplɪsɪt] adj. 1. я́сны, выра́зны, дакла́дны (*інфарма́цыя*). 2. шчы́ры, адкры́ты (*чалаве́к*)

**explode** [ɪkˈsploʊd] – v.i. узрыва́цца; выбуха́ць (*таксама сьме́хам*)

– v.t. 1. узрываць. 2. падрываць (*тэóрыю, памылкóвае дýманьне*), раскрываць, дэмаскаваць (*памы́лку*)

**exploit** [ˈeksplɔɪt] – n. адважны *абó* гераічны ўчы́нак, чын -у *m.*

– v.t. [ɪkˈsplɔɪt] 1. здабываць (*мінэрáлы з капáльні*). 2. выкарыстóўваць, эксплюатаваць

**exploration** [ˌekspləˈreɪʃən] n. адкрываньне, дасьле́даваньне, выве́дваньне *n.*

**explore** [ɪkˈsplɔːr] v.t. 1. выве́дваць. 2. дасьле́даваць

**explorer** [ɪkˈsplɔːrər] n. дасьле́днік -а *m.*

**explosion** [ɪkˈsploʊʒən] n. вы́бух -у *m.* (*бóмбы, сьмéху*)

**explosive** [ɪkˈsploʊsɪv] – adj. 1. выбухóвы (*пра матэрыя́л, сíлу*). 2. запáльчывы (*харáктар*). 3. Phon. выбухны́ (*зы́чны*)

– n. выбухóвы матэрыя́л

**exponent** [ɪkˈspoʊnənt] n. 1. тлумачáльнік -а *m.*, тлумáч -á *m.* 2. узóр; пры́клад -у *m.*; сы́мбалль -ю *m.* 3. Math. пакáзьнік ступе́ні

**export** [ɪkˈspɔːrt] – v.t. вывóзіць (*тавáр*), экспартаваць

– n. [ˈekspɔːrt] 1. экспартавáны прадýкт. 2. э́кспарт, вы́ваз -у *m.*

– adj. э́кспартны

**expose** [ɪkˈspoʊz] v.t. 1. раскрываць, адкрываць, (*раскóпкамі што-н.*). 2. выстаўляць (*на небясьпе́ку, выпрабавáньне*). 3. выстаўляць (*напакáз*). 4. раскрываць, выяўляць (*змóву*), выкрываць (*нягóдніка*). 5. Phot. рабíць вы́трымку

**exposition** [ˌekspəˈzɪʃən] n. 1. вы́стаўка *f.* 2. пакáз -у *m.*, даклáднае апісáньне, растлумáчаньне

**exposure** [ɪkˈspoʊʒər] n. 1. выкрыцьцё, выяўле́ньне (*злачы́нца*). 2. Photog. а) час насьвятле́ньня, б) насьвятле́ньне *n.* 3. від -у *m.*: ***a house with a southern exposure*** дом зь ві́дам на пóўдзень

**express** [ɪkˈspres] – v.t. 1. выкáзваць (*слóвамі*). 2. выяўляць (*рáдасьць*), пакáзваць. 3. пасылáць ліст сьпе́шнай тэрміновай дастáўкай

– adj. 1. я́сны, вырáзны (*жадáньне*). 2. спэцыя́льны, наўмы́сны. 3. даклáдны (*кóпія*). 4. тэрмінóвы; сьпе́шны; хýткі: ***express train*** хýткі цягні́к, экспрэ́с -а *m.*; ***express delivery*** тэрмінóвая дастáўка (*лістóў*); ***express highway*** аўтастрáда для хýткае язды́

– n. 1. спэцыя́льны пасланéц, кур’е́р -а *m.* & *f.* 2. экспрэ́с -а *m.* (*хýткі цягні́к, аўтóбус*)

– adv. экспрэ́сам, непасрэ́дна, прóста

• ***express oneself*** выкáзвацца

**expressed** [ɪkˈsprest] adj. вы́казаны

**expression** [ɪkˈspreʃən] n. 1. вы́каз -у *m.*, растлумачэ́ньне (*пля́ну*). 2. вы́раз -у *m.*, слóва *n.*, мóўны зварóт. 3. выказáньне, выяўле́ньне *n.*: ***A sigh is an expression of sadness*** Узды́х — выказáньне засмучэ́ньня. 4. вы́раз -у *m.* (*вачэ́й, твáру*). 5. альгебраíчны вы́раз. 6. экспрэ́сія *f.*

• ***freedom of expression*** свабóда слóва

**expressionism** [ɪkˈspreʃəˌnɪzəm] n. экспрэсіянíзм -у *m.*, выяўле́нчасьць *f.*

**expressive** [ɪkˈspresɪv] adj. 1. які́ выяўляе *абó* азначáе што-н. 2. вырáзны; экспрэсíўны, пóўны пачуцьця́; шматзнáчны

**expressly** [ɪkˈspresli] adv. 1. я́сна, вырáзна; прóста. 2. спэцыя́льна, наўмы́сна: ***She came expressly to see you*** Янá прыйшлá спэцыя́льна, каб пабáчыцца з вáмі

**expropriate** [ɪkˈsproʊprieɪt] v.t. 1. адчужáць, адбірáць, канфіскаваць (*маёмасьць*). 2. экспрапрыяваць

**expropriation** [ɪkˌsproʊpriˈeɪʃən] n. 1. адчужэ́ньне *n.*, экспрапрыя́цыя *f.* 2. канфіскáцыя *f.*, пазбаўле́ньне ўлáснасьці

**expulsion** [ɪkˈspʌlʃən] n. 1. вы́пуск, выпускáньне (паве́тра зь лёгкіх). 2. выгнáньне, выключэ́ньне *n.* (*са шкóлы*)

**expurgate** [ˈekspərgeɪt] v.t. выкрэ́сьліваць, выкідáць непажадáныя ме́сцы (*у кні́зе*); вычышчáць

**exquisite** [ɪkˈskwɪzɪt] adj. 1. цудóўны, захаплЯльны. 2. вóстры, мóцны: ***exquisite joy*** вéльмі вялíкая рáдасьць. 3. вéльмі дóбры; надзвычáйны, дасканáлы (*пра густ, манéры*): ***an exquisite ear for music*** дасканáлы музы́чны слых

**extemporize** [ɪkˈstempəraɪz] v. 1. імправізавáць (*верш, мýзыку, тáнец*). 2. рабíць на хýткую рукý

**extend** [ɪkˈstend] – v.t. 1. працягваць, падавáць (*рукý*). 2. падаўжáць (*адпачы́нак*): ***to extend a table*** рассýнуць стол. 3. павялíчваць; пашырáць (*уплы́ў, дзéйнасьць*); разбудóўваць (*дом*). 4. давáць: ***to extend help*** давáць дапамóгу, дапамагáць

– v.i. 1. распасьцірáцца; цягнýцца. 2. бóльшаць, павялíчвацца. 3. сягáць

**extended** [ɪkˈstendɪd] adj. 1. вялíкі; прастóрны; шырóкі. 2. даўгí, дóўгі, працяглы (*візы́т*), падóўжаны. 3. рассýнуты, падóўжаны, пашы́раны (*стол*)

**extensible** [ɪkˈstensəbəl] adj. 1. які́ мóжна вы́сунуць, вы́цягнуць (*напр. кíпці*). 2. які́ мóжна рассýнуць, зрабíць даўжэ́йшым *абó* шырэ́йшым, расьцяжны́

**extension** [ɪkˈstenʃən] n. 1. працягнéньне *n.* (*рукí*), прадаўжэ́ньне; падаўжэ́ньне, пашырэ́ньне *n.* (*дарóгі*). 2. прыбудóва *f.* (*да будынку*). 3. адтэрмінавáньне *n.*, адтэрмінóўка *f.* (*чáсу ўплáты*)

• ***extension courses*** вячэ́рнія завóчныя кýрсы

**extension ladder** драбíна з рухóмай надстáўкай

**extensive** [ɪkˈstensɪv] adj. 1. вялíкі; вялíзны; шырóкі; прастóрны; далёкасяжны. 2. багáты на вы́нікі; які́ шмат ахапляе

**extent** [ɪkˈstent] n. 1. працяагласьць, адлéгласьць *f.*; прастóра *f.* 2. абшáр; прастóр -у *m.* 3. ступéнь *f.*; мéра *f.*: ***to a great extent*** у знáчнай ступéні

**extenuate** [ɪkˈstenjueɪt] v.t. 1. зьмяншáць (*вінý, памы́лку*), зьмякчáць, часткóва апрáўдваць. 2. аслабляць, зьмяншáць: ***extenuating circumstances*** абстáвіны, які́я аслабляюць, зьмяншáюць (*вінý*)

**exterior** [ɪkˈstɪriər] – n. 1. вóнкавы вы́гляд 2. вóнкавы бок, вóнкавая чáстка. 3. дзéя на вóльным павéтры

– adj. 1. вóнкавы, знадвóрны (*дзьвéры*); зьнéшні: ***exterior influences*** вóнкавыя ўплы́вы. 2. Obsol. замéжны (*спрáвы*), зьнéшні (*палíтыка*)

**exterminate** [ɪkˈstɜːrmɪneɪt] v.t. вынішчáць; вывóдзіць; звóдзіць (*прусакóў*)

**external** [ɪkˈstɜːrnəl] – adj. 1. вóнкавы (*супакóй*); знадвóрны, навакóльны (*сьвет*): ***for external use only*** тóлькі для вóнкавага ўжы́тку (*пра лек*). 2. неглыбóкі, павярхóўны. 3. замéжны, зьнéшні (*гáндаль*)

– n. вóнкавы вы́гляд: ***to judge people by mere externals*** ацэ́ньваць людзéй тóлькі павóдле вóнкавага вы́гляду

**extinct** [ɪkˈstɪŋkt] adj. 1. вы́мерлы (*зьвер*). 2. патýхлы (*вулькáн*); згáслы, пагáслы (*агóнь*)

**extinction** [ɪkˈstɪŋkʃən] n. 1. гашэ́ньне, згашэ́ньне *n.* (*сьвятлá*). 2. вымірáньне *n.* 3. спынéньне, зьнішчэ́ньне *n.*; канlец -цá *m.*

**extinguish** [ɪkˈstɪŋgwɪʃ] v.t. 1. гасíць (*агóнь, лямпу*), тушы́ць. 2. зьнішчáць, забівáць (*надзéю*). 3. зацьмявáць. 4. касавáць (*правы́*), рабíць няважным (*прэтэ́нзіі*)

**extinguisher** [ɪkˈstɪŋgwɪʃər] n. гасíльнік -а *m.* (*агню, сьвятлá*)

**extirpate** [ˈekstərpeɪt] v.t. 1. выкараняць, звóдзіць, вывóдзіць, зьнішчáць. 2. вырывáць з кóранем

**extol** [ɪkˈstoʊl] or **extoll** v.t. усхваляць, узнóсіць да нéба

**extort** [ɪkˈstɔːrt] v.t. 1. вымагáць, вымушáць (*грóшы, абяцáньне*). 2. абдзірáць; брáць хáбар

**extortion** [ɪkˈstɔːrʃən] n. 1. вымагáньне сíлай *ці* пагрóзамі (*грóшай, абяцáньня*). 2. абдзірáньне, хáбарніцтва

**extortionate** [ɪkˈstɔ:rʃənət] adj. 1. вымагáльніцкі. 2. празьмéрна вялíкі, занáдта высóкі (*пра цанý*)
**extortioner** [ɪkˈstɔ:rʃənər] or **extortionist** [ɪkˈstɔ:rʃənɪst] n. 1. вымагáльнік -а *m.* 2. абдзірáл|а -ы *m. & f.*, хáбарнік -а *m.*
**extra** [ˈekstrə] – adj. бóльшы, лéпшы як звычáйна; асаблíвы; дадаткóвы, э́кстра: ***extra pay*** дадаткóвая плáта
– n. 1. дадáт|ак -ку *m.* 2. спэцыя́льнае выдáньне газэ́ты, дадáт|ак -ку *m.*
– adv. 1. дадаткóва. 2. незвычáйна, асаблíва: ***extra good quality*** асаблíва дóбрая я́касьць; ***extra strong*** асаблíва мóцны
**extract** [ɪkˈstrækt] – v.t. 1. вырывáць (*зуб*), выця́гваць; дабівáцца (*слóва прáўды, прызнáньня*). 2. здабывáць (*жалéза, вýгаль*). 3. вымушáць *pf.* (*доўг*). 4. выціскáць (*сок*). 5. рабíць вы́цягі з кнíгі, выбірáць пры́клады. 6. Math. здабывáць кóрань
– n. [ˈekstrækt] 1. уры́|вак -ўку *m.*, вы́цяг -у *m.* (*з тэ́ксту*). 2. экстрáкт -у *m.*
**extraction** [ɪkˈstrækʃən] n. 1. вырывáньне *n.* 2. пахóджаньне *n.*: ***of Belarus(i)an extraction*** беларýскага пахóджаньня
**extradite** [ˈekstrədaɪt] v.t. выдавáць (*злачы́нца другóй дзяржáве*)
**extradition** [ˌekstrəˈdɪʃən] n. вы́дача, экстрады́цыя *f.*
**extraneous** [ɪkˈstreɪniəs] adj. чужы́; які́ прыйшóў звóнку; пабóчны, вóнкавы: ***extraneous remark*** пабóчная заўвáга, якáя не налéжыць да тэ́мы
**extraordinary** [ɪkˈstrɔ:rdəneri] adj. 1. вáрты ўвáгі, выдáтны; незвычáйны. 2. надзвычáйны: ***an envoy extraordinary*** надзвычáйны і паўнамóцны пасóл, паслáньнік -а *m.*
**extravagant** [ɪkˈstrævəgənt] adj. 1. марнатрáўны, экстравагáнтны. 2. фантасты́чна абсýрдны; недарэ́чны; перабóльшаны; празьмéрна, занáдта вялíкі (*пра цанý*)
**extreme** [ɪkˈstri:m] – adj. 1. скрáйні, экстрэмáльны; надзвычáйны; радыкáльны: ***extreme measures*** радыкáльныя зáхады. 2. найдалéйшы, найбóльш аддáлены (*ад цэ́нтру*). 3. апóшні (*надзéя*)
– n. 1. скрáйнасьць *f.*; скрáйняя супярэ́чнасьць: ***Love and hate are two extremes of feeling*** Кахáньне і нянáвісьць — дзьве скрáйнія пачуцьцёвыя супярэ́чнасьці. 2. найвышэ́йшая ступéнь: ***in/to the extreme*** у (да) найвышэ́йшай ступéні. 3. Math. крáйнія члéны (*прапóрцыі*)
• ***go to the extremes*** упадáць у скрáйнасьць
**extremely** [ɪkˈstri:mli] adv. вéльмі, надзвычáйна, скрáйне
**extremity** [ɪkˈstreməti] n., pl. **-ties** 1. канé|ц -цá *m.*, кра|й -ю *m.* (канéц). 2. скрáйняя патрэ́ба, бядá *f.* 3. скрáйнасьць (*у пагля́дах*); скрáйняя неабхóднасьць
• ***extremities*** канцавíны, канéчнасьці
**extrinsic** [eksˈtrɪnsɪk] adj. 1. неўласьцíвы. 2. вóнкавы, пастарóньні
**extrude** [ɪkˈstru:d] – v.t. выштýрхваць, выпіхáць, выціскáць
– v.i. выдзяля́ць
**exuberance** [ɪgˈzu:bərəns] n. 1. багáцьце *n.*, пы́шнасьць: ***an exuberance of tropic vegetation*** пы́шнасьць трапíчнае расьлíннасьці. 2. збы́т|ак -ку *m.*, празьмéрнасьць *f.*; дастáт|ак -ку *m.*, паўнатá *f.* (*пачуцьця́*). 3. бýрны, празьмéрны вы́бух (*рáдасьці*)
**exuberant** [ɪgˈzu:bərənt] adj. 1. багáты; шчóдры; квітнéючы (*пра здарóўе*): ***an exuberant welcome*** шчóдрае пры́ймо, вітáньне. 2. густы́, пы́шны, бýйны (*пра расьлíннасьць*)
**exude** [ɪgˈzu:d] v. 1. выступáць, пацéць (*пра пот*); сачы́цца (*пра вадý*). 2. выдзяля́цца (*пра вáдкасьць*), выдзяля́ць
**exult** [ɪgˈzʌlt] v.i. мóцна рáдавацца, трыюмфавáць
**exultance** [ɪgˈzʌltəns] or **exultancy** [ɪgˈzʌltənsi] n. вялíкая рáдасьць, трыюмф -у *m.*
**exultant** [ɪgˈzʌltənt] adj. рáдасны, вясёлы; трыюмфáльны

**eye** [aı] – n. 1. вóка *n., pl.* вóчы: ***He has blue eyes*** У ягó сíнія вóчы; ***a black eye*** падбíтае вóка, сіня́к пад вóкам; ***to close one's eyes*** заплю́шчыць вóчы; ***to squint one's eyes*** прыплю́снуць вóчы. 2. а) назіра́льнасьць *f.* б) здóльнасьць ба́чыць; зрок -у *m.*: ***to have an eye for color*** дóбра разьбіра́ць кóлеры. 3. пóзірк, пóгляд -у *m.* 4. глéдзішча *n.;* пагля́д -у *m.:* ***in the eyes of the law*** з глéдзішча пра́ва. 5. вóчка *n.* (*на клу́бнях бу́льбы*). 6. ву́шка *n.* (*гóлкі*). 7. вóка (*урага́ну*)
– v.t. 1. глядзéць; пагляда́ць, пазіра́ць. 2. пíльна прыгляда́цца
• ***eye and hook*** га́фтачка й га́плік
• ***eye for an eye*** вóка за вóка
• ***keep an eye on*** а) нагляда́ць, дагляда́ць; сачы́ць за ...
• ***make eyes at*** стрóіць вóчкі, какéтліва пагляда́ць
• ***shut one's eyes to*** заплю́шчваць вóчы на штo-н., не звaрача́ць ува́гі
• ***with one's eyes open*** з адкры́тымі вачы́ма, сьвéдамы ры́зыкі і вы́ніку

**eyeball** [ˈaıbɔ:l] n. вóчны я́блык

**eyebrow** [ˈaıbraʊ] n. брывó *n.*

**eyeglass** [ˈaıglæs] n. 1. лíнза *f.*, манóклІь -я *m.* 2. акуля́р -а *m.* (*мікраскóпа, тэлескóпа*)

**eyeglasses** акуля́ры *pl.*

**eyehole** [ˈaıhoʊl] n. 1. Anat. вачнíца *f.* 2. вóчка *n.* (*і ў вяза́ньні*). 3. назіра́льная шчы́ліна

**eyelash** [ˈaılæʃ] n. вéя, вéйка *f.*

**eyelet** [ˈaılət] n.1. ву́шка *n.*; пятля́, пяцéлька *f.* (*для гу́зікаў*); дзíрка *f.* (*для шнурóвак*). 2. вóчка *n.*

**eyelid** [ˈaılıd] n. павéка *f.*

**eye shadow** цéні для павéкаў

**eyeshot** [ˈaıʃɑ:t] n. пóле зрóку: ***out of eyeshot*** па-за пóлем зрóку; ***in eyeshot*** у пóлі зрóку, як вóкам кíнуць

**eyesight** [ˈaısaıt] n. 1. зрок -у *m.* 2. пóле зрóку

**eye socket** вачнíца *f.*

**eyesore** [ˈaısɔ:r] n. нéшта, штo рэ́жа вóка, на штo непрыéмна глядзéць (*напр., ку́ча сьмяцьця́*)

**eyetooth** [ˈaıtu:θ] n., pl. **-teeth** вóчны зуб

**eyewitness** [ˈaıˌwıtnəs] n. навóчны сьвéдка

# F

**F, f** [ef] n., pl. **F's** , **f's** 1. *шóстая лíтара ангéльскага альфабэ́ту.* 2. найніжэ́йшая шкóльная адзнáка (*вéльмі дрэ́нна*). 3. Mus. фа (*нóта*)

**fable** [ˈfeɪbəl] – n. 1. бáйка *f.* 2. вы́думка *f.*; вы́мысlел -лу *m.* 3. міт -у *m.*, легéнда *f.*
– v. 1. пісáць *абó* раскáзваць бáйкі. 2. казáць няпрáўду, мані́ць

**fabric** [ˈfæbrɪk] n. 1. тканíна *f.*, матэры́ял -у *m.* 2. структýра *f.*: ***financial fabric*** фінáнсавая структýра
• ***fabrics*** мануфактýра *f.*

**fabricate** [ˈfæbrɪkeɪt] v.t. 1. будавáць; выраблáць, фабрыкавáць. 2. зьбірáць машы́ну (*складáць з гатóвых чáстак*). 3. выдумлáць, хлусíць. 4. падраблáць (*дакумэ́нты*)

**fabrication** [ˌfæbrɪˈkeɪʃən] n. 1. збóрка (*аўтамабíляў*); вы́раб -у *m.*, выраблáньне *n.*; стварáньне *n.* 2. вы́думка *f.*, прыýманая гістóрыя, манá, адгавóрка *f.*

**face** [feɪs] – n. 1. твар -у *m.*, аблíчча *n.* 2. вы́раз твáру. 3. грымáса *f.*: ***to make faces at*** перадрáжніваць, крывíць твар. 4. вóнкавы вы́гляд. 5. пярэ́дняя чáстка; дóбры, прáвы бок (*тканíны*); павéрхня *f.*: ***the face of a clock*** цыфэрблáт гадзíньніка. 6. фасáд -а *m.*
– v. 1. стаáць твáрам, стаáць пéрад *кім-чым*: ***the problem that faces us*** праблéма, якáя стаíць пéрад нáмі. 2. зварачáцца, быць зьвéрнутым у які́н. бок; выхóдзіць: ***My windows face the sea*** Маé вóкны выхóдзяць на мóра; ***our house faces north*** наш дом зьвéрнуты на пóўнач. 3. адвáжна сустракáць, супрацьстаáць (*вóрагу, цяжкасьцям*): ***to face the facts*** браць пад увáгу фáкты. 4. абліцóўваць (*дом цэ́глай*). 5. паліравáць, абтóчваць (*кáмень*)
• ***face down*** запалóхаць, асадзíць
• ***face to face*** твар у твар
• ***face up to*** адвáжна пастáвіцца (*да цяжкасьцяў, пры́красьцяў*)
• ***in the face of*** а) пéрад *кім-чым*, у прысýтнасьці *кагó.* б) насýперак, насупóр *чамý*
• ***lose face*** згубíць твар, стрáціць аўтарытэ́т
• ***pull a long face*** выглядáць нешчасьлíвым абó незадавóленым
• ***to one's face*** а) у чыéй-н. прысýтнасьці, б) прóста ў вóчы, шчы́ра, адвáжна

**face card** карóль, дáма *абó* валéт (*у кáрах*); фігýрная кáрта, карцíнка *f.*

**face lift** 1. касмэты́чнае амаладжэ́ньне твáру. 2. абнаўлéньне фасáду

**facet** [ˈfæsɪt] n. 1. грань *f.*; пэры́яд -у *m.* 2. аспэ́кт -у *m.*: ***a facet of his character*** ры́са ягóнага харáктару

**facial** [ˈfeɪʃəl] – adj. 1. твáрны; твáру: ***a facial nerve*** нэрв твáру. 2. для твáру: ***a facial ointment*** мазь для твáру
– n., Informal масáж твáру

**facial tissue** папяро́вая ху́стачка (*для тва́ру*)

**facile** [ˈfæsəl] adj. 1. лёгкі, про́сты. 2. спры́тны, ху́ткі. 3. лаго́дны, рахма́ны; дабраду́шны, згаво́рлівы

**facility** [fəˈsɪləti] n., pl. **-ties** 1. лёгкасьць *f.* 2. спрыт -у *m.* 3. абсталява́ньне, прыстасава́ньне *n.* 4. пада́тнасьць, рахма́насьць, згаво́рлівасьць *f.* 5. магчы́масьць, умо́ва *f.*: ***work facilities*** ме́сца для пра́цы

**facing** [ˈfeɪsɪŋ] n. 1. абліцо́ўка *f.*, абліцо́вачны матэрыя́л. 2. адваро́т -у *m.* (*у суке́нцы, гарніту́ры*); матэрыя́л на адваро́ты. 3. Milit. паваро́т -у *m.* (*упра́ва, уле́ва*)

**facsimile** [fækˈsɪməli] n. факсы́міле, *indecl.* (*дакла́дная ко́пія або́ рэпраду́кцыя*)

**fact** [fækt] n. 1. факт -у *m.*; акалі́чнасьць *f.*; падзе́я *f.*; зья́ва *f.*: ***scientific facts*** навуко́выя фа́кты. 2. пра́ўда, сапра́ўднасьць *f.*; рэчаі́снасьць, су́тнасьць *f.*: ***the fact is that*** рэч у тым, што

• ***after the fact*** Law пасьля́ ўчыне́ньня злачы́нства

• ***in fact*** or ***as a matter of fact*** у сапра́ўднасьці, факты́чна

• ***in point of fact*** сапраўды́; факты́чна

**faction** [ˈfækʃən] n. 1. фра́кцыя *f.* 2. клі́ка *f.* 3. сва́рка *f.*; разла́д -у *m.*, нелады́ *pl.*

**factor** [ˈfæktər] n. 1. элемэ́нт -у *m.*, істо́тныя абста́віны, фа́ктар -у *m.* 2. Math. мно́жнік -а *m.* 3. аге́нт -а *m.*, камісіянэ́р -а *m.*; пасярэ́днік -а *m.* (*у гандлёвых зьдзе́лках*)

**factory** [ˈfæktri] n., pl. **-ries** 1. фа́брыка *f.*, заво́д -у *m.*: ***chemical factory*** хімі́чны заво́д. 2. факто́рыя *f.*

**faculty** [ˈfækəlti] n., pl. **-ties** 1. здо́льнасьць *f.*: ***the faculty of hearing*** здо́льнасьць чуць. 2. наста́ўніцкі, прафэ́сарскі склад шко́лы. 3. факультэ́т, аддзе́л -у *m.* (*ва ўнівэрсытэ́це*)

**fad** [fæd] n. 1. мо́да *f.*; часо́вае захапле́ньне. 2. хо́бі *indecl.*

**fade** [feɪd] – v.i. 1. бля́кнуць; рабі́цца цьмя́ным (*і пра ўспамі́ны*); выцьвіта́ць; выгара́ць; ліня́ць (*на со́нцы, у мыцьці́*). 2. вя́нуць. 3. слабе́ць; зьніка́ць: ***to fade away*** паступо́ва зьніка́ць, заміра́ць

– v.t. выпа́льваць (*пра со́нца*), пазбаўля́ць ко́леру: ***sunlight faded the curtains*** со́нца вы́паліла фіра́нкі

**fade in** v. (*у ра́дыё, кіно́, тэлеба́чаньні*) паступо́ва павялі́чваць сі́лу гу́ку *або́* выра́знасьць вы́явы

**fade out** v. паступо́ва зьмянша́ць сі́лу гу́ку *або́* выра́знасьць вы́явы

**fag** [fæg] – v.t. зьнясі́льваць, стамля́ць (*пра́цай*)

– v.i. зьнясі́львацца, стамля́цца

– n. 1. цяжка́я, ну́дная пра́ца. 2. Informal недапа́лак -лка, бычо́к -ка (*цыгарэ́ты*)

**fag II** [fæg] n., Sl. гомасэксуалі́ст -а *m.*; го́мік -а *m.*

**fail** [feɪl] – v.i. 1. цярпе́ць няўда́чу; не ўдава́цца; ***he failed*** яму́ не ўдало́ся, ён завалі́ў спра́ву. 2. не истава́ць, не хапа́ць; адсу́тнічаць. 3. тра́ціць сі́лы; занепада́ць, слабе́ць; паступо́ва заміра́ць. 4. банкрутава́ць. 5. ня здаць экза́мену

– v.t. 1. ня слу́хацца (*ра́ды*). 2. падво́дзіць, расчаро́ўваць. 3. ста́віць ву́чню дрэ́нную адзна́ку; зрэ́зваць на экза́мэне

• ***without fail*** напэ́ўна, беспамылко́ва

**failing** [ˈfeɪlɪŋ] – n. 1. няўда́ча *f.* 2. сла́басьць *f.*; віна́ *f.*; зага́на *f.*

– prep. 1. без, за недахо́пам: ***failing good weather*** калі́ ня бу́дзе паго́ды. 2. пры адсу́тнасьці: ***failing election*** у выпа́дку няўда́чы ў вы́барах.

– adj. 1. слабы́, кво́лы (*пра здаро́ўе*). 2. яко́га не стае́, не хапа́е; нездавальня́ючы: ***a failing grade*** нездавальня́ючая адзна́ка

**failure** [ˈfeɪljər] n. 1. няўда́ча *f.*, права́л -у *m.*, непасьпяхо́васьць *f.*: ***The trip was a failure*** Паездка не ўдала́ся; ***a failure of crops*** неўраджа́й -ю *m.* 2. упа́дак

сілаў, страта *f.*: ***a failure of eyesight*** страта зроку. 3. банкруцтва *n.* 4. няўдачнік -а *m.*, няўдачніца *f.*

**faint** [feınt] – adj. 1. няясны (*думка*), бляклы, невыразны (*колер*). 2. кволы, слабы: ***a faint voice*** кволы голас. 3. неахвотны, без запалу. 4. блізкі да непрытомнасьці, гатовы самлець. 5. нясьмелы, баязьлівы
– v.i. млець, траціць прытомнасьць
– n. непрытомнасьць *f.*, самленьне *n.*

**fainthearted** [ˌfeıntˈhɑːrtəd] adj. баязьлівы, нясьмелы, нерашучы

**fair I** [fer] – adj. 1. справядлівы; сумленны, добрасумленны; згодны з правіламі (*гульня*): ***a fair judge*** справядлівы судзьдзя. 2. неблагі. 3. ладны: ***a fair sum of money*** ладная сума грошай. 4. сьветлы, бялявы (*валасы, скура*). 5. лагодны, сонечны; чысты (*пра неба*); незаплямлены. 6. прыгожы; ветлівы. 7. разборлівы, выразны, чытэльны (*почырк*)
– adv. 1. справядліва, сумленна. 2. проста
• ***fair and square*** справядліва й сумленна
• ***fair lady*** прыгажуня

**fair II** [fer] n. кірмаш -ў *m.*

**fairly** [ˈferli] adv. 1. сумленна; справядліва. 2. досыць, даволі. 3. фактычна; зусім, цалкам. 4. ясна, выразна (*пісаць*)

**fair-minded** [ˌferˈmaındıd] adj. справядлівы, бесстаронны, непрадузяты, аб'ектыўны

**fairness** [ˈfernəs] n. сумленнасьць, добрасумленнасьць, справядлівасьць *f.*

**fairy** [ˈferi] n., pl. **fairies** фэя *f.*

**fairy tale** 1.казка *f.* 2. выдумка, небыліца *f.*

**faith** [feıθ] n. 1. вера *f.*; давер -у *m.* 2. рэлігія *f.* 3. вернасьць, адданасьць, ляяльнасьць *f.*
• ***in bad faith*** несумленна, з дрэннай думкай
• ***in good faith*** сумленна, шчыра
• ***keep faith*** стрымаць абяцаньне; верыць

**faithful** [ˈfeıθfəl] – adj. 1. верны, адданы. 2. праўдзівы; дакладны, акуратны
– n. вернlы -ага *m.*, верная *f.*

**faithfulness** [ˈfeıθfəlnəs] n. вернасьць, адданасьць *f.*

**fake** [feık] – v. 1. падрабляць, фальшаваць. 2. ашукваць; удаваць, прыкідвацца (*хворым*)
– n. 1. фальшыўка *f.*; падробка *f.*; прыкідваньне *n.* 2. прытворlа -ы *m. & f.*
– adj. фальшывы, падроблены

**falcon** [ˈfælkən] n. сокал -а *m.*

**falconer** [ˈfælkənər] n. сокольнік -а *m.*

**fall** [fɔːl] – v.i., **fell, fallen, -ing** 1. падаць; сыпацца, асыпацца; ападаць (*пра лісты*). 2. падаць (*пра валасы*), апушчацца, апускацца, падаць (*маральна*). 3. гінуць, быць забітым (*у бітве*). 4. падаць, здавацца: ***The fort fell to the enemy*** Форт здаўся ворагу. 5. упадаць у стан: ***to fall asleep*** заснуць; ***to fall in love*** закахацца. 6. наставаць, надыходзіць, пачынацца: ***when night fell*** калі настала ноч. 7. прыпадаць, выпадаць: ***Christmas fell on Sunday this year*** Сёлета Каляды прыпадаюць на нядзелю. 8. зьніжацца: ***prices fall*** цэны падаюць. 9. дзяліцца: ***The story fell into five parts*** апавяданьне дзеліцца на пяць частак. 10. упадаць (*пра раку*)
– n. 1. упадlак -ку *m.* (*і маральны*). 2. падзеньне *n.* 3. зьніжэньне *n.* (*цэнаў, ціску*). 4. пакатасьць *f.*, спад -у *m.* 5. вадаспад -у *m.* 6. восень *f.*
– adj. восенскі
• ***fall across*** or ***among*** выпадкова сустрэцца, натыкнуцца, наскочыць на *каго*
• ***fall apart*** распадацца, разvальвацца
• ***fall behind*** адставаць, заставацца ззаду
• ***fall due*** падлягаць выплаце (*пра доўг*)
• ***fall heir to*** атрымаць у спадчыне
• ***fall in*** а) выпадкова спаткацца. б) згаджацца, саступаць. в) увальвацца; завальвацца

• ***fall off*** а) зьлятáць, звáльвацца. б) адпадáць, адыхóдзіць. в) зьмяншáцца, паслабляцца

• ***fall on*** нападáць

• ***fall out*** выпадáць

• ***fall short (of)*** быць мéншым (*за што-н.*), не ставáць

• ***fall through*** правáльвацца

• ***fall under*** а) падпадáць (*пад уплы́ў*). б) належáць да грýпы

• ***fall upon*** кíнуцца, напáсьці на *кагó-што*

**fallacy** [ˈfæləsi] n., pl. **-cies** памы́лка *f.*; памылкóвая дýмка, памылкóвы пагля́д

**fallout** [ˈfɔ:laʊt] n. радыёактыўныя апáдкі *абó* пыл

**fallow** [ˈfælou] – adj. 1. папáрны (*пра пóле*): ***fallow field*** папáр. 2. Informal неразьвíты, бязьдзéйны (*рóзум*)

– n. папáр -у *m.*

– v.t. арáць пад папáр, кідáць пóле пад папáр

**falls** [fɔ:lz] n., pl. вадаспáд -у *m.*

**false** [fɔ:ls] – adj. 1. фальшы́вы; няпрáвільны; памылкóвы. 2. ілжы́вы, хлусьлíвы (*сьвéдчаньне*). 3. фальшы́вы (*нóта*); нявéрны, няшчы́ры (*ся́бра*). 4. ашукáнскі (*сыгнáл*), махля́рскі (*вагá*). 5. падрóблены, штýчны (*дыямэ́нт*)

– adv. фальшы́ва; ілжы́ва; няшчы́ра; штýчна

– v. фальшы́віць (*у ігры́*), падрабля́ць

**falsehood** [ˈfɔ:lshʊd] n. 1. фальшы́васьць *f.* 2. хлушэ́ньне, ілгáньне *n.* 3. хлусьня́, манá, ілжá *f.*; фальш -у *m.*

**fame** [feɪm] n. 1. слáва *f.*; папуля́рнасьць *f.* 2. рэпутáцыя *f.*

**familiar** [fəˈmɪljər] adj. 1. знаёмы, добра вядóмы; усíм вядóмы; прывы́чны; блíзкі, інты́мны (*ся́бра*). 2. дасьвéдчаны: ***to be familiar with ...*** быць дóбра дасьвéдчаным у *чым*, азнаёмленым з *чым*. 3. неафіцы́йны, сябрóўскі (*дачынéньні*); фамілья́рны. 4. прырýчаны (*пра жывёліну*)

**familiarity** [fəˌmɪliˈærəti] n., pl. **-ties** 1. блíзкае знаёмства, вéданьне *n.* 2. фамілья́рнасьць *f.*

**family** [ˈfæmli] – n., pl. **-lies** 1. сям'я́ *f.* 2. дзéці, нашчáдкі. 3. род -у *m.* 4. знáтнае пахóджаньне. 5. Bot., Zool. сям'я́

– adj. сямéйны; хáтні

• ***family line*** радавóд

• ***family name*** прóзьвішча

• ***family tree*** радавóднае дрэ́ва

• ***in the (a) family way*** у цяжкý, цяжáрная

**famine** [ˈfæmɪn] n. 1. галадáньне *n.*; галадóўля *f.*; гóлад -у *m.* 2. вялíкі недахóп: ***a coal famine*** вялíкі недахóп вýгалю

**famish** [ˈfæmɪʃ] – v.t. мары́ць гóладам

– v.i. 1. быць мóцна галóдным; галадавáць. 2. памірáць з гóладу

**famous** [ˈfeɪməs] adj. 1. дóбра вядóмы, слáўны, знакамíты. 2. выдáтны; дасканáлы

**fan I** [fæn] – n. 1. вéер -а *m.* 2. вэнтыля́тар -а *m.* (*у пакóі*). 3. вéялка *f.* (*для збóжжа*)

– v.t. 1. абмáхваць вéерам. 2. разьдзьмýхваць (*агóнь*). 3. вéяць (*збóжжа*)

**fan II** [fæn] n. Informal 1. энтузія́ст -а *m.*, энтузія́стка *f.*; фанáт -а *m.* 2. Sport заўзя́тар -а *m.*, заўзя́тарка *f.*

**fanatic** [fəˈnætɪk] – n. фанáтык -а *m.*, фанаты́чка *f.*

– adj. зацятыя; апантáны

**fanciful** [ˈfænsɪfəl] adj. 1. капры́зны, капры́сьлівы, перабóрлівы. 2. дзівóсны, фантазíйны, пóўны фантáзіі; нязвы́клы, незвычáйны. 3. які́ мáе багáтае ўяўлéньне, з багáтай фантáзіяй: ***a fanciful writer*** пісьмéньнік з багáтай фантáзіяй. 4. уя́ўны, нерэáльны, фантасты́чны: ***a fanciful story*** фантасты́чнае апавядáньне

**fancy** [ˈfænsi] – n., pl. **-cies** 1. фантáзія *f.*, уяўлéньне *n.* 2. галюцынáцыя *f.* 3. нахíл -у *m.*; схíльнасьць *f.*; сымпáтыя *f.*; упадабáньне *n.*: ***They took a great fancy to each other*** Яны́ мóцна спа-

дабáліся аднó аднамý. 4. капрыслівасьць *f.*, капрыз -у *m.*
– v.t. 1. уяўляць. 2. меркавáць, дýмаць. 3. любíць; падабáцца
– adj. 1. аздóбны, аздóблены, прыбрáны; мóдны. 2. няпрóсты; фігýрны: ***fancy skating*** адвóльнае катáньне на канькáх. 3. спэцыяльна гадавáны (*фрукт, жывёліна*). 4. уяўны; вы́думаны; фантасты́чны

**fancy ball** маскарáдны баль

**fancy dress** шыкóўная адзéжына; маскарáдны ўбор

**fancy goods** галянтэрэя

**fancywork** [ˈfænsɪwɜːrk] n. вы́шыўка *f.*; вязáньне *n.*

**fang** [fæŋ] n. 1. ікíóл -лá *m.* 2. ядавíты зуб (*у зьмéяў*). 3. завóстраная чáстка (*зуб відэльца*)

**fantastic** [fænˈtæstɪk] adj. 1. дзівóсны; дзíўны, незвычáйны. 2. эксцэнтры́чны. 3. фантасты́чны; нерэáльны. 4. Informal неверагóдна дóбры (хýткі, высóкі)

**fantasy** [ˈfæntəsi] n., pl. **-sies** 1. уяўлéньне *n.*, фантáзія *f.* 2. капры́з -у *m.* 3. Mus. фантáзія *f.*

**far** [fɑːr] – adj. **farther, farthest** 1. далёкі. 2. даўгí: ***a far journey*** далёкае падарóжжа. 3. другí, супрацьлéжны, супрацьлéглы: ***a far bank*** супрацьлéглы бéраг
– adv. 1. далёка: ***far away*** далёка, удáлеч; ***far from*** вóддаль; ***far into the night*** пóзна ўнóчы; ***far into the ground*** глыбóка ў зямлю. 2. (*вéльмі*) шмат; куды́: ***far better*** куды́ лéпшы
• ***as far as*** а) аж да. б) накóлькі: ***as far as I know*** накóлькі я вéдаю
• ***by far*** шмат, знáчна
• ***far and near*** усюды
• ***far be it from me*** не хачý; нізавóшта
• ***far from it*** зусíм не; анí, ні ў якíм рáзе
• ***from far*** здалёку
• ***how far*** дакýль; як далёка
• ***so far*** дагэтуль; датýль
• ***so far as*** накóлькі; да тагó, што
• ***so far so good*** пакýль што ўсё дóбра

**farce** [fɑːrs] n. 1. фарс -у *m.* (*тэáтр*). 2. пасьмéшышча *n.*, камэдыя *f.*

**fare** [fer] – n. 1. плáта за праéзд (*аўтóбусам, цягнікóм*). 2. пасажы́р (*аўтóбуса, цягнікá*). 3. éжа *f.*, харч: ***a daily fare*** штодзённая éжа; ***bill of fare*** мэню́, *indecl.*
– v.i. 1. éсьці, харчавáцца: ***He fares well*** ён дóбра харчýецца. 2. вéсьціся: ***he is faring well in school*** ямý дóбра йдзé навýка. 3. давóдзіцца ***It will fare hard with the thief, if ...*** Злóдзею цяжка давядзéцца, калí ...

**Far East** Далёкі Ўсхóд

**farewell** [ˌferˈwel] – interj. 1. бывáй здарóў, бывáйце здарóвы! 2. бывáй, бывáйце! Шчасьлíва! Усягó дóбрага!
– n. разьвітáньне *n.*
– adj. разьвітáльны; апóшні

**farfetched** [ˌfɑːrˈfetʃt] adj. нацягнуты; ненатурáльны, штýчны: ***a farfetched comparison*** нацягнутае параўнáньне

**farm** [fɑːrm] – n. 1. гаспадáрка *f.*, фáрма, фэрма *f.*; хýтар -у *m.*: ***a dairy farm*** малóчная фэрма. 2. гадавáльнік -у *m.*: ***an oyster farm*** гадавáльнік вýстрыцаў
– v.t. 1. абрабляць, апрацóўваць зямлю́, здавáць у арэнду (*зямлю́*), давáць у нáймы (*рабóтнікаў*)
– v.i. займáцца земляр́óбствам, быць земляр́óбам

**farmer** [ˈfɑːrmər] n. земляр́óб, фáрмэр -а *m.*

**farm hand** наняты рабóтнік на сéльскай гаспадáрцы, пáрабíак -ка *m.*

**farm house** [ˈfɑːrmhaʊs] n. жылы́ дом на хýтары

**farmland** [ ˈfɑːrmlænd] n. вóрная зямля й пáша *абó* паплавы́

**farmstead** [ˈfɑːrmsted] n. фальвáрíак -ка *m.*; фáрма з гаспадáрчымі буды́нкамі

**far-off** [ˌfɑːrˈɔːf] adj. далёкі

**far-reaching** [ˌfɑːrˈriːtʃɪŋ] adj. далекасяжны

**far-seeing** [ˌfɑ:rˈsi:ɪŋ] adj. 1. дальнабáчны, празóрлівы, прадбáчлівы. 2. дальназóркі

**farsighted** [ˌfɑ:rˈsaɪtəd] adj. 1. дальназóркі. 2. дальнабáчны, празóрлівы, прадбáчлівы

**farther** [ˈfɑ:rðər] adj. *вышэ́йшая ступéнь ад* **far** 1. далéйшы. 2. больш, дадаткóвы: ***Do you need farther help?*** Ці патрэ́бна вам далéйшая дапамóга?

**farthest** [ˈfɑ:rðɪst] – adj. *найвышэ́йшая ступéнь ад* **far** 1. найдалéйшы. 2. найдаўжэ́йшы: ***the farthest distance*** найдалéйшая адлéгласьць
– adv. 1. найдалéй. 2. вéльмі далёка

**farthing** [ˈfɑ:rðɪŋ] n. 1. Brit. фáртынг -а *m.* (*1/4 пэ́нса*). 2. дрóбязь *f.*: ***it's not worth a farthing*** грóша ня вáрта

**fascinate** [ˈfæsɪneɪt] v.t. 1. захапля́ць. 2. зачарóўваць

**fascinating** [ˈfæsɪneɪtɪŋ] adj. захапля́льны; чарóўны, панáдны

**fascination** [ˌfæsɪˈneɪʃən] n. 1. захаплéньне, ачараваньне *n.* 2. чарóўнасьць; панáднасьць, прывáбнасьць *f.*

**fascism** [ˈfæʃˌɪzəm] n. фашы́зм -у *m.*

**fascist** [ˈfæʃɪst] – n. фашы́ст -а *m.*
– adj. фашы́сцкі, фашыстóўскі

**fashion** [ˈfæʃən] – n. 1. спóсаб -у *m.*; манéра *f.*; узóр -у *m.*: ***after my fashion*** па-мóйму; ***after the fashion of*** на ўзóр *чагó* 2. мóда *f.*: ***in (the) fashion*** мóдны; ***out of fashion*** нямóдны, састарэ́лы. 3. фасóн -у, крой -ю *m.*, фóрма *f.*; узóр -у *m.*
– v.t. 1. рабíць; мадэлявáць, фармавáць. 2. прыстасóўваць
• ***after*** or ***in a fashion*** да пэ́ўнай ступéні; сяк-так
• ***set the fashion*** увóдзіць мóду
• ***something of that fashion*** нéшта накштáлт тагó

**fashionable** [ˈfæʃənəbəl] – adj. 1. мóдны; у мóдзе. 2. сьвéцкі, які́ трымáецца мóды
– n. мóднік -а *m.*

**fast I** [fæst] – adj. 1. шпáркі, бóрзды, хýткі: ***my watch is fast*** мой гадзíньнік сьпяшáецца. 2. мóцны: ***to take a fast hold of something*** мóцна ўхапíцца за што-н. 3. які́ мóцна трымáецца, ня бля́кне (*пра кóлер*). 4. легкадýмны, фрывóльны; шалапýтны: ***He led a fast life*** Ён вёў шалапýтнае жыцьцё. 5. вéрны: ***fast friend*** вéрны пры́яцель
– adv. 1. шпáрка, бóрзда, хýтка. 2. мóцна; шчы́льна; пэ́ўна: ***The baby is fast asleep*** Дзіця́тка мóцна сьпіць. 3. пасьпéшна, безраздýмна: ***to live fast*** марнатрáвіць жыцьцё
• ***play fast and loose*** казáць аднó, а рабíць другóе; быць няшчы́рым *абó* ненадзéйным

**fast II** [fæst] – v.i. пасьцíць, пóсьнікаваць
– n. пост -у *m.*

**fasting** [ˈfæstɪŋ] n. пост -у *m.*

**fasten** [ˈfæsən] v.t. 1. прымацóўваць, прывя́зваць, зьвя́зваць; сашчэ́пліваць (*папéры*); сашрубóўваць. 2. сьціскáць (*рýкі, зýбы*). 3. зачыня́ць; замыкáць; зашпіля́ць : ***to fasten a door*** зашчапíць дзьвéры; ***to fasten a blouse*** зашпілíць блю́зку

**fastener** [ˈfæsənər] n. 1. зáсаўка *f.* (*у дзьвярáх*), завáла *f.* 2. (*вінтавáя*) зацiскáчка *f.*; замацавáльнік -а, кля́мар -ра *m.* 3. сашчэ́пка *f.* (*для папéраў*)

**fastidious** [fæˈstɪdiəs] adj. 1. патрабавáльны; перабóрлівы. 2. вы́танчаны: ***a fastidious mind*** or ***taste*** вы́танчаны рóзум абó густ

**fastidiousness** [fæˈstɪdiəsnəs] n. 1. патрабавáльнасьць *f.* 2. вы́танчанасьць *f.*

**fat** [fæt] – n. 1. тлушч -у *m.*; тук -у *m.*; сáла *n.* 2. сы́тасьць, тлýстасьць *f.*
– adj. 1. тлýсты (*мя́са*). 2. урадлíвы (*зямля́*). 3. выгóдны, дахóдны (*прáца*). 4. таўсты́, сы́ты, пóўны, глáдкі. 5. багáты. 6. тупы́, дурны́
– v.t. 1. адкóрмваць, выкóрмваць, адпáсвасць
– v.i. сыцéць, рабіцца глáдкім (*пра жывёлу*)

**fatal** [ˈfeɪtəl] adj. 1. сьмярóтны: ***fatal accident*** сьмярóтны вы́падак. 2. згýб-

ны. 3. ва́жны; выраша́льны; наканава́ны, су́джаны, фата́льны

**fatality** [feɪˈtæləti] n., pl. **-ties** 1. сьмяро́тны вы́падак, сьмерць *f.* 2. згу́бнасьць, сьмяро́тнасьць *f.* 3. наканава́насьць, фата́льнасьць *f.*

**fate** [feɪt] – n. 1. кон -у *m.* 2. наканава́ньне *n.* 3. до́ля *f.*, лёс -у *m.* 4. сьмерць *f.*, згу́ба *f.*, гі́бель *f.*
– v.t. накано́ўваць

**father** [ˈfɑ:ðər] – n. 1. ба́цьк|а -і *m.*; про́д|ак -ка *m.* 2. айц|е́ц -ца́ *m.* (*фо́рма зваро́ту да сьвятара́*). 3. ствара́льнік -а, тво́рц|а -ы *m.*; правады́р -а́ *m.*
– v. 1. спараджа́ць, быць ба́цькам. 2. ствара́ць

**fatherhood** [ˈfɑ:ðərhud] n. бацько́ўства *n.*

**father-in-law** [ˈfɑ:ðərənˌlɔ:] n., pl. **fathers-in-law** сьвёк|ар -ра *m.* (*му́жаў ба́цька*); це́сьц|ь -я *m.* (*жо́нчын ба́цька*)

**fatherland** [ˈfɑ:ðərlænd] n. ба́цькаўшчына, айчы́на *f.*

**fatherly** [ˈfɑ:ðərli] – adj. бацько́ўскі
– adv. па-бацько́ўску

**fatigue** [fəˈti:g] – n. змо́ра *f.*; сто́ма, сто́мленасьць, зму́чанасьць *f.*
– v.t. стамля́ць; му́чыць, мары́ць
– v.i. стамля́цца, му́чыцца; мары́цца

**fatling** [ˈfætlɪŋ] n. ко́рмнік -а *m.*; малада́я жывёліна, адко́рмленая на мя́са

**fatness** [ˈfætnəs] n. 1. сы́тасьць, тлу́стасьць *f.* 2. урадлі́васьць (*глё́бы*)

**fatten** [ˈfætən] – v.t. 1. адко́рмваць, выко́рмваць (*жывёлу*), ту́чыць. 2. угно́йваць (*ральлю́*)
– v.i. сыце́ць

**fattened** [ˈfætənd] adj. адко́рмлены

**fatty** [ˈfæti] – adj. 1. тлу́сты. 2. тлу́шчавы
– n. таўсту́н -а́ *m.*, таўсту́ха *f.*; гла́дкая жывёліна

**faucet** [ˈfɔ:sɪt] n. (*вадаправо́дны*) кран -у *m.*

**fault** [fɔ:lt] – n. 1. недахо́п -у *m.*, зага́на *f.*; брак -у *m.*: ***to find fault with*** знахо́дзіць зага́ну, пярэ́чыць чаму́-н., крытыкава́ць. 2. памы́лка, хі́ба *f.* 3. віна́ *f.*; праві́на *f.*; злачы́нства *n.* 4. Geol. зрушэ́ньне *n.*, зрух -у *m.*
– v.i. 1. Geol. зру́хвацца, зьмяшча́цца (*пра го́рныя паро́ды*). 2. памыля́цца
– v.t. 1. Geol. 1. выклі́ка́ць зрушэ́ньне. 2. пярэ́чыць; крытыкава́ць
• ***at*** or ***in fault*** вінава́ты; няпра́вільны, які́ ня ма́е ра́цыі
• ***to a fault*** зашма́т, зана́дта, празьме́рна, залі́шне: ***generous to a fault*** залі́шне шчо́дры

**faultfinder** [ˈfɔ:ltˌfaɪndər] n. прычэ́па, прыдзі́ра *m. & f.*; крытыка́н -а *m.*

**faultfinding** [ˈfɔ:ltˌfaɪndɪŋ] – n. нарака́ньне, крытыкава́ньне *n.*, кры́тыка *f.*
– adj. прыдзі́рлівы, прычэ́плівы, які́ крытыку́е

**faulting** [ˈfɔ:ltɪŋ] n., Geol. зрушэ́ньне *n.*, скі́ды *pl. only*

**faultless** [ˈfɔ:ltləs] adj. 1. беззага́нны, бездако́рны. 2. беспамылко́вы; бясхі́бны

**faulty** [ˈfɔ:lti] adj. зага́нны, які́ ма́е недахо́пы; памылко́вы, няпра́вільны; няспра́ўны

**favor**, Brit. **favour** [ˈfeɪvər] – n. 1. ла́ска, паслу́га *f.*: ***Will you do me a favor?*** Зрабе́це мне ла́ску; ***to be out of favor*** быць у няла́сцы. 2. ухвале́ньне, прыхі́льнасьць, зго́да: ***to look with favor on*** ухваля́ць, быць зго́дным на *што.* 3. падару́нак *m.*, па́мятка *f.*
– v.t. 1. мець ла́ску, быць ласка́вым: ***Favor us with a song*** Бу́дзь ласка́вы, засьпява́й нам. 2. спрыя́ць, ста́віцца з прыхі́льнасьцю. 3. ухваля́ць, пагаджа́цца: ***We favor your plan*** Нам падаба́ецца ваш плян. 4. падтрымо́ўваць, стая́ць на чыі́м-н. баку, стая́ць за; дапамага́ць *каму́-чаму́*
• ***in favor of*** а) быць прыхі́льным, стая́ць за *каго́-што.* б) на кары́сьць, у кары́сьць: ***to write a cheque in favor of*** вы́пісаць чэк на чыё-н. імя́

**favorable,** Brit. **favourable** [ˈfeɪvərəbəl] adj. 1. прыхі́льны. 2. спрыя́льны, зру́чны, кары́сны: ***a favorable wind*** спадаро́жны ве́цер. 3. які́ абяца́е *або́* прадвяшча́е до́брае

**favorite,** Brit. **favourite** [ˈfeɪvrət] – adj. улюбёны, аблюбава́ны

– n. 1. улюбёнlец -ца *m.*, улюбёнка *f.*; пястýн пестунá *m.*, пястýха *f.* 2. фаварыт -а *m.*

**favoritism,** Brit. **favouritism** [ˈfeɪvrəˌtɪzəm] n. фаварытызм -у *m.*

**fawn I** [fɔ:n] – n. 1. казýля, маладáя кóзачка. 2. жóўта-бýры кóлер
– adj. сьвéтла жóўта-бýры
– v.t. нарадзíць, прывéсьці казьлянё

**fawn II** [fɔ:n] v.i. 1. падмáзвацца, падлíзвацца, падхалíмнічаць. 2. лáшчыцца (*пра сабáку*)

**fear** [fɪr] – n. 1. страх -у *m.* 2. небясьпéка *f.*; бóязь *f.*: ***in fear of one's life*** бóязь за сваё жыцьцё. 3. страх з глыбóкай пашáнай
– v.t. баяцца, непакóіцца: ***to fear for one's safety*** непакóіцца за сваю бясьпéку
• ***without fear or favor*** бесстарóнна, справядлíва

**fearful** [ˈfɪrfəl] adj. 1. стрáшны, страшны. 2. пóўны стрáху, у стрáху

**fearless** [ˈfɪrləs] adj. бясстрáшны; адвáжны, сьмéлы

**fearlessness** [ˈfɪrləsnəs] n. бясстрáшнасьць, адвáга, сьмéласьць *f.*

**feasible** [ˈfi:zəbəl] adj. 1. зьдзяйсьняльны, рэáльны. 2. магчымы, праўдападóбны. 3. адпавéдны

**feast** [fi:st] n. 1. бясéда *f.*, банкéт -у *m.* 2. багáты абéд. 3. фэст -у *m.* (*рэлігíйнае сьвята ці ўрачыстасьць*)

**feat** [fi:t] – n. 1. высóкі ўчынак. 2. дасягнéньне *n.*; спрыт -у *m.*
– adj. 1. прыдáтны, адпавéдны. 2. спрытны

**feather** [ˈfeðər] – n. 1. пярó *n.* (*птушынае*), *pl.* пёры, *coll.* пéр'е *n.*; пярына, пярынка *f.* (*аднó пярó*). 2. esp. pl. апярэньне *n.*
– v.t. пакрывáць *абó* ўпрыгóжваць пёрамі

**feather-brain** adj. пустагалóвы

**feather weight** – adj. лёгкі, як пярынка
– n. лёгкая вагá (*у бóксе*)

**feature** [ˈfi:tʃər] – n. 1. асаблíвасьць, характэрная рыса, дэтáль *f.* 2. галóўная чáстка прагрáмы, асаблíва фíльм. 3. галóўны артыкул у газэце *абó* чáсапісе
– v.t. 1. пакáзваць (*на экрáне*); прадстаўляць; апíсваць. 2. адвóдзіць асóбнае мéсца ў газэце
– v.i. быць характэрнай рысай чагó-н.
• ***features,*** pl. рысы твáру (*вóчы, нос, вýшы*), твар

**febrifuge** [ˈfebrɪfju:dʒ] – n. 1. гарáчкапаніжáльнае *n.* (*лек*). 2. асьвяжáльны напóй
– adj. гарáчкапаніжáльны

**February** [ˈfebjueri] – n., pl. **-aries** лютlы -ага *m.*
– adj. лютаўскі

**feces** [ˈfi:si:z] n., pl. 1. кал -у *m.* 2. адкíды *pl. only*; асáдlак -ку *m.*

**fed** [fed] v. *pt. and pp. of* **feed**

**federal** [ˈfedərəl] adj. фэдэрáльны

**federate** [ˈfedəreɪt] – v.t. 1. утварыць фэдэрáцыю. 2. арганізавáць на фэдэрáльных аснóвах
– v.i. спалучáцца ў фэдэрáцыю
– adj. [ˈfedərət] спалýчаны ў фэдэрáцыю
– n. удзéльнік фэдэрáцыі

**federation** [ˌfedəˈreɪʃən] n. фэдэрáцыя *f.*, саюз -у *m.*

**federative** [ˈfedərətɪv] adj. фэдэрацыйны

**fee** [fi:] – n. 1. плáта *f.*; ганарáр -у *m.*: ***an admission fee*** уступнáя плáта. 2. аплáта *f.*
– v.t. 1. плацíць за паслýгу

**feeble** [ˈfi:bəl] adj. 1. слабы, квóлы, хваравíты, нямóцны: ***a feeble old man*** квóлы стары чалавéк; ***a feeble resistance*** слабы супрацíў. 2. слабы; няясны, невырáзны: ***a feeble cry*** квóлы крык; ***a feeble light*** слабóе сьвятлó

**feebleness** [ˈfi:bəlnəs] n. квóласьць, бясьсíльнасьць, нядýжасьць *f.*

**feebly** [ˈfi:bli] adv. слáба, квóла

**feed** [fi:d] – v.t. **feed, feeding** 1. кармíць, харчавáць: ***to feed a baby*** кармíць дзіцятка. 2. жывíць; распáльваць (*злосьць*). 3. падтрымваць, забясьпéчваць пáлівам, вадóю *ці* сыра-

вінай: ***to feed kerosene to a lamp*** наліць газы ў лямпу. 4. пасьвіць (*жывёлу*). 5. уводзіць: ***to feed information into a computer*** уводзіць інфармацыю ў кампутар

– v.i. пасьвіцца (*пра жывёлу*); есьці: ***Cows feed on hay*** Каровы кормяцца сенам

• ***I am fed up*** Sl. Мне абрыдла

– n. 1. корм -у *m.*; кармы *pl.* 2. Informal ежа. 3. харчаваньне *n.*, кармленьне *n.*

**feedback** зваротная сувязь

**feeder** [ˈfiːdər] n. 1. а) карміцел|ь -я *m.*, карміцелька *f.* б) кармушка (*прыстасаваньне для кармленьня жывёлы, птушак*). 2. Electr. фідэр -а *m.* (*дрот*). 3. прыток (*ракі*); канал -у *m.*

**feel** [fiːl] **felt, feeling** – v.t. 1. мацаць, дакранацца: ***Feel how cold my hands are*** Паглядзі, якія ў мяне халодныя рукі. 2. шукаць вобмацкам. 3. адчуваць. 4. думаць, верыць

– v.i. 1. намацваць, прамацваць. 2. чуцца, адчуваць сябе. 3. шкадаваць, спачуваць

– n. 1. дотык -у *m.* 2. адчуваньне, чуцьцё *n.* 3. пачуцьцё дотыку

• ***feel like*** хацець, мець ахвоту *або* жаданьне

**feeler** [ˈfiːlər] n. шчуп|ень -ня *m.* *або* шчупальца *n.*, вусік -а *m.*

**feeling** [ˈfiːlɪŋ] – n. 1. адчуваньне *n.*: ***a feeling of cold (pain)*** адчуваньне холаду (болю). 2. пачуцьцё дотыку. 3. чуцьцё *n.*; думка *f.* 4. пачуцьцё *n.*, эмоцыя *f.*: ***noble feelings*** высакародныя пачуцьці. 5. шкадаваньне, спачуваньне *n.*

– adj. 1. чульлівы, чулы; пачуцьцёвы: ***a feeling heart*** чулае сэрца. 2. глыбока адчуваны

• ***hurt someone's feelings*** абразіць чые-н. пачуцьці

**feet** [fiːt] n. *pl. of* **foot**

• ***carry*** or ***sweep off one's feet*** а) захапіць каго-н., узбудзіць энтузіязм. б) зрабіць вялікае ўражаньне

• ***stand on one's own feet*** быць незалежным, стаяць на сваіх нагах

**feign** [feɪn] v. 1. прыкідвацца; сымуляваць, удаваць. 2. выдумляць; прыдумваць (*апраўданьне*). 3. уяўляць (*нерэальнае*)

**feigned** [feɪnd] adj. 1. удаваны; няшчыры. 2. прыдуманы, несапраўдны

**felicity** [fəˈlɪsəti] n., pl. **-ties** 1. шчасьце *n.*, удача *f.* 2. асалода *f.*

**fell I** [fel] v. *p.t. of* **fall**

**fell II** [fel] – v.t. 1. зьбіваць з ног, валіць. 2. рэзаць (*дрэва*), сячы (*лес*). 3. шыць бялізнавым швом

– n. 1. спушчаныя дрэвы ў сэзон. 2. бялізнавае шво

**fellage** [ˈfelɪdʒ] n. высяканьне *n.* (*дрэваў*), высечка *f.*

**felloe** [ˈfeloʊ] n. вобад -а *m., pl.* абады (*кола*)

**fellow** [ˈfeloʊ] – n. 1. чалавек -а, хлопец хлапца *m.*: ***old fellow*** дружа, стары (*у зварoце*); ***poor fellow*** бядак; нябога, небарака. 2. сябр|а -ы *m.*, таварыш -а *m.*, супольнік -а *m.*: ***a fellow in misery*** таварыш у няшчасьці. 3. сябра навуковага таварыства *або* каледжу

– adj. супольны, падобны: ***fellow citizens*** суграмадзяне; ***fellow workers*** супрацоўнікі

**fellow countryman** зямляк земляка *m.*, суайчыньнік -а *m.*

**fellow feeling** 1. спачуцьцё *n.* 2. пачуцьцё супольнасьці зацікаўленьняў

**fellowship** [ˈfeloʊʃɪp] n. 1. сяброўскасьць, прыязьнь *f.* 2. сяброўства *n.*, 3. згуртаваньне, таварыства *n.*, суполка *f.*; брацтва *n.*, карпарацыя *f.* 4. стыпэндыя *f.*

**felon** [ˈfelən] n. злачынец -ца, крымінальнік -а *m.*: ***Murderers and thieves are felons*** Забойцы і зладзеі — крымінальнікі

**felony** [ˈfeləni] n., pl. **-nies**, Law крымінальнае злачынства

**felt I** [felt] v. *p.t. and p.p. of* **feel**

**felt II** [felt] – n. 1. фэтр|ар -ру *m.*; *sing. only.* 2. лям|ец -цу *m.*

– adj. 1. фэ́травы: ***a felt hat*** фэ́травы капялю́ш. 2. ля́мцавы: ***a felt boot*** валён|ак -ка *m., pl.* валёнкі

**female** [ˈfi:meɪl] – n. 1. жанчы́на, дзяўчы́на *f.* 2. са́мка *f.* 3. Bot. жано́чая кве́тка (*яка́я ма́е то́лькі пе́сьцікі*)

– adj. жано́чы: ***a female choir*** жано́чы хор

**feminine** [ˈfemənɪn] – adj. 1. жано́чы, жано́цкі, дaліка́тны: ***feminine intuition*** жано́чая інтуі́цыя. 2. жанчынападо́бны, немужчы́нскі, расьпе́шчаны, кво́лы (*пра мужчы́ну*). 3. Gram. жано́чы род

– n. жано́чы род

**femininity** [ˌfeməˈnɪnəti] n. 1. жано́цкасьць, жано́часьць. 2. жанчы́ны, жано́чы род

**fen** [fen] n., Brit. ба́гна, дрыгва́ *f.*, бало́та -а *n.*

**fence** [fens] – n. 1. плот -у *m.*, за́гарадзь *f.* 2. a) Informal ску́пшчык *або́* прадаве́ц кра́дзеных рэ́чаў. б) ме́сца, дзе прадаю́цца кра́дзеныя рэ́чы. 3. фэхтава́ньне *n.*

– v.t. 1. абгаро́джваць. 2. адгаро́джваць. 3. абараня́ць; ахо́ўваць; сьцерагчы́

– v.i. 1. фэхтава́ць. 2. Informal ухіля́цца ад адка́заў у дыску́сіі, пары́раваць

**fencing** [ˈfensɪŋ] – n. фэхтава́ньне *n.*

– adj. фэхтава́льны: ***fencing foil*** фэхтава́льная шпа́га; ***fencing master*** фэхтма́йст|ар -ра *m.* (*інстру́ктар фэхтава́ньня*)

**fender** [ˈfendər] n. 1. крыло́ *n.* (*аўтамабі́ля*) 2. се́тка або́ кра́ты ў камі́не

**ferment** [fərˈment] – v.i. 1. брадзі́ць; фэрмэнтава́ць. 2. хвалява́цца; узбуджа́цца, распаля́цца

– v.t. 1. выкліка́ць браджэ́ньне. 2. выкліка́ць хвалява́ньні. 3. распа́льваць, абвастра́ць

– n. [ˈfɜ:rment] 1. фэрмэ́нт -у. 2. браджэ́ньне *n.*, фэрмэнта́цыя *f.* 3. хвалява́ньне, забурэ́ньне *n.*

**fermentation** [ˌfɜ:rmenˈteɪʃən] n. 1. браджэ́ньне *n.*, фэрмэнта́цыя *f.* 2. хвалява́ньне *n.*; узбу́джанасьць *f.*; хвалява́ньні *pl. only*

**fern** [fɜ:rn] n. па́парацьь *f.*

**ferny** [ˈfɜ:rni] adj. па́паратны, як па́парацьь; заро́слы па́парацьцю

**ferocious** [fəˈroʊʃəs] adj. 1. лю́ты; злы. 2. Informal ве́льмі мо́цны, страшны́: ***a ferocious headache*** страшны́ боль галавы́

**ferocity** [fəˈrɑ:səti] n., pl. **-ties** 1. лю́тасьць *f.*, гнéў -ву *m.*, разью́шанасьць *f.* 2. зьве́рскі ўчы́нак, зьве́рства *n.*

**ferriferous** [fəˈrɪfərəs] adj. жале́зісты; які́ ма́е ў сабе́ жале́за, бага́ты на жале́за

**ferroconcrete** [ˌferoʊˈkɑ:nkri:t] – n. жале́забэто́н -у *m.*

– adj. жале́забэто́нны

**ferry** [ˈferi] – n., pl. **-ries** 1. перапра́ва *f.*, ме́сца перапра́вы праз раку. 2. паро́м -а *m.* 3. рэгуля́рная авіятра́нспартная слу́жба

– v.t. 1. перавo̍зіць ло́дкай, паро́мам або́ параплa̍вам. 2. перавo̍зіць самалётам. 3. рабі́ць даста́ўкі самалётам

– v.i. пераплыва́ць праз раку́ паро́мам *або́* ло́дкай

**ferryboat** [ˈferɪboʊt] n. паро́м -у *m.*, ло́дка *або́* вадаплa̍ў для перавo̍зу праз раку́

**fertile** [ˈfɜ:rtəl] adj. 1. урадлі́вы (*гле́ба, год*); плo̍дны. 2. Biol. апло́днены; апы́лены: ***fertile eggs*** апло́дненыя я́йкі 3. бага́ты; пладаві́ты (*на ідэ́і*); тво́рчы; жыватво́рчы

**fertility** [fərˈtɪləti] n. 1. урадлі́васьць *f.* 2. пло́днасьць, пладаві́тасьць *f.* 3. плённасьць, пладаві́тасьць *f.* (*тво́рчая*) 3. пло́днасьць *f.* (*фізы́чная*)

**fertilization** [ˌfɜ:rtələˈzeɪʃən] n. 1. угно́йваньне, угнае́ньне *n.* 2. апладне́ньне *n.*

**fertilize** [ˈfɜ:rtəlaɪz] v.t. 1. угно́йваць (*зямлю́*). 2. Biol. аплaдня́ць

**fertilizer** [ˈfɜ:rtəlaɪzər] n. угнае́ньне *n.*, гно|й -ю *m.*

**fervent** [ˈfɜ:rvənt] adj. 1. па́лкі (*пачуцьцё*), палымя́ны, шчы́ры. 2. гара́чы, распа́лены

**fervor,** Brit. **fervour** [ˈfɜːrvər] n. 1. гара́чнасьць, палымя́насьць *f.* 2. вялі́кая гарачыня́

**fester** [ˈfestər] – v.i. 1. гнаі́цца (*пра ра́ну*), гнаі́цца (*пра во́чы*). 2. гнісьці́, гніць. 3. разьвярэ́джвацца (*пра крыўду, боль*) – v.t. 1. выкліка́ць гнае́ньне *або́* запале́ньне. 2. му́чыць, грызьці́, разьвярэ́джваць (*ра́ну, крыўду*)

**festival** [ˈfestɪvəl] n. сьвя́та, сьвяткава́ньне *n.*; урачы́стасьць *f.*, фэстыва́л|ь -ю *m.*

**festive** [ˈfestɪv] adj. сьвято́чны, урачы́сты; вясёлы, ра́дасны

**festively** [ˈfestɪvli] adv. па-сьвято́чнаму, урачы́ста; ра́дасна

**festivity** [fesˈtɪvəti] n., pl. **-ties** 1. урачы́стасьці. 2. гуля́ньне, заба́ва; вясёласьць. 3. фэстыва́л|ь -ю *m.*

**fetch** [fetʃ] – v.t. 1. прыно́сіць, прыво́зіць (*во́зам, а́ўтам*), прыво́дзіць (*пехато́й*). 2. атры́мваць, выруча́ць: ***to fetch a good price*** прада́ць за до́брую цану́. 3. Informal узя́ць; адхапі́ць – v. адшу́кваць і прыно́сіць забі́тую дзічыну́ (*пра саба́ку*)
- ***fetch a breath*** адды́хацца
- ***fetch a groan*** застагна́ць
- ***fetch example*** браць пры́клад

**fetish** [ˈfetɪʃ] n. 1. фэты́ш -у *m.*, стод -а *m.*, сто́дзіва *n.*, і́дал -а *m.* 2. амуле́т, талісма́н -а *m.*

**fetter** [ˈfetər] – n. 1. кайданы́, кайда́ны *pl. only*; пу́ты *pl. only* (*на но́гі*). 2. усё, што абмяжо́ўвае свабо́ду – v.t. 1. зако́ўваць (*но́гі ў кайданы́*). 2. зьвя́зваць, зьняво́льваць

**fetus** [ˈfiːtəs] n. заро́д|ак -ку *m.*

**feud I** [fjuːd] – n. 1. варо́жасьць (*до́ўгая сьмяро́тная*). 2. сва́рка *f.*; няспы́нныя нелады́, змага́ньне – v.i. сьмяро́тна варагава́ць

**feud II** [fjuːd] n. лен -у *m.*, фэўда́льнае ўлада́ньне, фэўда́льны маёнтак

**feudal** [ˈfjuːdəl] adj. 1. фэўда́льны. 2. які́ варагу́е, варо́жы

**feudalism** [ˈfjuːdəlˌɪzəm] n. фэўда́льны лад, фэўдалі́зм -у *m.*

**feudalist** [ˈfjuːdəlɪst] n. фэўда́л -а *m.*, прыхі́льнік фэўдалізму

**fever** [ˈfiːvər] – n. 1. гара́чка *f.* 2. ліхама́нка *f.* 3. хваро́ба: ***scarlet fever*** шкарляты́на *f.*; ***typhoid fever*** ты́фус, тыф; ***yellow fever*** жо́ўтая ліхама́нка. 4. захапле́ньне *n.*, аза́рт -у *m.*; мо́цнае ўзру́шаньне – v.t. кіда́ць у жар, палі́ць гара́чкай – v.i. мець гара́чку

**fevered** [ˈfiːvərd] adj. 1. які́ ма́е гара́чку, з гара́чкай. 2. гара́чкавы, ліхама́нкавы; усхвалява́ны; няўры́мсьлівы

**feverish** [ˈfiːvərɪʃ] adj. 1. а) які́ ма́е невялі́кую гара́чку. б) у гара́чцы. 2. вы́кліканы гара́чкай, гара́чкавы: ***feverish thirst*** гара́чкавая сма́га. 3. ліхама́нкавы, гара́чкавы; неспако́йны: ***feverish haste*** ліхама́нкавы сьпе́х

**few** [fjuː] – adj. нешматлі́кі, няшма́т, ма́ла: ***His friends are few*** У яго́ няшма́т сябро́ў; ***in a few words*** ко́ратка, у ко́лькіх сло́вах – n. мала́я ко́лькасьць, ня шмат хто
- ***quite a few***, Informal даво́лі шмат
- ***the few*** ме́ншасьць *f.*

**fiancé** [fiːɑːnˈseɪ] n. нарачо́н|ы -ага *m.*

**fiancée** [fiːɑːnˈseɪ] n. нарачо́ная *f.*

**fiasco** [fiˈæskoʊ] n., pl. **-cos** or **-coes** по́ўная няўда́ча, права́л -у *m.*

**fib** [fɪb] – n. хлусьня́ *f.*; мана́, няпра́ўда *f.* (*малава́жная*) – v.i. (**-bb**) хлусі́ць, мані́ць, каза́ць няпра́ўду

**fiber** [ˈfaɪbər] n. 1. валакно́ *n.*; фі́бра *f.*: ***hemp fiber*** канапля́нае валакно́. 2. ні́тка *f.* 3. хара́ктар -у *m.*, нату́ра *f.* (*чалаве́ка*). 4. Bot. то́нкія карэ́нчыкі расьлі́наў

**fibered** or **fibred** [ˈfaɪbərd] adj. валакні́сты

**fiberglass** [ˈfaɪbərglæs] n. шкловалакно́ *n.*

**fibroid** [ˈfaɪbrɔɪd] – adj. валакні́сты, валакні́стае будо́вы – n. род пухлі́ны

**fickle** [ˈfɪkəl] adj. зьме́нлівы, няўсто́йлівы; нястaлы, капры́зны: ***fickle fortune*** зьме́нлівае шча́сьце; ***a fickle friend*** нястáлы ся́бра

**fickleness** [ˈfɪkəlnəs] n. нястáласьць, зьмéнлівасьць *f.*

**fiction** [ˈfɪkʃən] n. 1. прóза *f.*, мастáцкая літаратýра, бэлетры́стыка *f.*: ***works of fiction*** рамáны, апóвесьці. 2. вы́думка, фантáзія *f.* 3. прыдýманая гістóрыя

**fictitious** [fɪkˈtɪʃəs] adj. 1. несапрáўдны, прыдýманы, уяўлены, фікты́ўны. 2. ашукáнскі, хлусьлíвы, фальшы́вы, зьмéнены (*імя́*): ***The criminal used a fictitious name*** Злачы́нец меў вы́думанае імя́

**fiddle** [ˈfɪdəl] – n. 1. Informal скры́пка *f.*: ***to play second fiddle*** грáць другýю скры́пку, ады́грываць другарáдную рóлю. 2. Sl. ашукáнства *n.*, хітрасьць *f.*

– v.i. 1. Informal ігрáць на скры́пцы. 2. круцíць у рукáх: ***The embarrassed boy fiddled with his hat*** Засарóмлены хлапéц мяў у рукáх шáпку

• ***fiddle away*** змарнавáць, прагультáіць

**fiddler** [ˈfɪdlər] n. скрыпáч -á *m.*

**fiddlestick** [ˈfɪdəlstɪk] n. 1. смык -á *m.* 2. лýхта, драбнíца *f.*

**fidelity** [fɪˈdeləti] n., pl. **-ties** 1. вéрнасьць, аддáнасьць, ляя́льнасьць *f.* 2. даклáднасьць, старáннасьць *f.* (*у выкóнваньні абавя́зкаў*). 3. даклáдная згóднасьць (*як у кóпіі*). 4. даклáднасьць (*інструмэ́нту, рáдыё*)

**fidget** [ˈfɪdʒət] – v.i. тýрзацца, неспакóйна круцíцца.

– v.t. тýрзаць, нэрвавáць

– n. 1. нэрвóвы неспакóй. 2. мітусьлíвы, неспакóйны чалавéк, непасéд|а -ы *m. & f.*

**fidgety** [ˈfɪdʒəti] adj. неспакóйны; непасéдлівы, мітусьлíвы

**fief** [fi:f] n. фэўдáльнае ўладáньне, зямля́, лен -у *m.*

**field** [fi:ld] – n. 1. пóле *n.*, луг -у *m.* 2. а) пляцóўка *f.* (*спартóвая абó íншая*). б) пóле *n.*, пляц -у *m.*, мéсца *n.*: ***a flying field*** лётнішча; ***the gold fields*** капáльні зóлата; ***the coal fields*** вýгальны басэ́йн. 3. а) пóле бітвы́. б) бíтва *f.* 4. галінá *f.*, пóле дзéйнасьці: ***the field of politics*** галінá палíтыкі

– adj. 1. палявы́: ***field hospital*** палявы́ шпітáль. 2. баявы́: ***a field operation*** баявáя апэрáцыя

• ***take the field*** распачáць бíтву, гульню́, агітáцыю

**field events** спабóрніцтва (*у лёгкай атлéтыцы: скóкі, кíданьне*)

**field glass** or **glasses** палявы́ бінóкль

**field marshal** фэльдмáршал -а *m.*

**field officer** штаб-афіцэ́р (*ад маёра да палкóўніка*)

**field work,** Geol. палявы́я рабóты, разьвéдка; зьбірáньне вéстак (*статы́стыка, вывучэ́ньне грамáдзкай дýмкі*)

**fiend** [fi:nd] n. 1. нячы́ст|ы -ага *m.*, нячы́сьцік -а *m.*; чорт, чартá *m.*, д'я-б|ал -ла *m.* 2. Informal чалавéк, які́ ўцягнýўся ў нéшта благóе: ***dope fiend*** наркамáн абó наркóтык -а *m.*, вы́людак -ка *m.* (*лю́ты чалавéк*)

**fiendish** [ˈfi:ndɪʃ] adj. чартóўскі; д'я́бальскі, сатанíнскі, вéльмі лю́ты *абó* злы; ліхадзéйны

**fierce** [fɪrs] adj. 1. дзíкі (*пра зьвярá*). 2. гвалтóўны; шалёны (*вéцер*); бязьлíтасны: ***a fierce attack*** гвалтóўны напáд. 3. старáнны, настóйлівы: ***fierce efforts to get ahead*** старáнныя, настóйлівыя намагáньні зрабíць кар'éру. 4. Sl. вéльмі благí, непрыéмны

**fieriness** [ˈfaɪərinəs] n. 1. пáлкасьць *f.* 2. запальчы́васьць, гарáчнасьць *f.*

**fiery** [ˈfaɪəri] adj. 1. распáлены, мóцна нагрэ́ты, гарáчы (*пра печ*). 2. напáлены; агнíсты, бліскýчы (*пра вóчы*): ***a fiery red*** агнíстая чы́рвань. 3. пáлкі, гарáчы: ***a fiery speech*** пáлкая прамóва. 4. гарáчы, запáльчывы: ***a fiery temper*** запáльчывы харáктар. 5. лёгкі на загарáньне (*пра газ*). 6. Med. запáлены струп, бóлька *f.*: ***a fiery sore*** запáленая рáнка

**fiesta** [fiˈestə] n. 1. фэст -у, фэстывáл|ь -ю *m.* 2. сьвя́та *n.*; урачы́стасьць *f.*

**fifteen** [ˌfɪfˈti:n] n. пятна́ццаць
**fifteenth** [ˌfɪfˈti:nθ] – adj. 1. пятна́ццаты
– n. пятна́ццатая ча́стка
**fifth** [fɪfθ] – adj. 1. пя́ты. 2. які́ ёсьць пя́тай ча́сткай
– n. 1. пя́т|ы -ага *m.*, пя́тая *f.* 2. пя́тая ча́стка: ***two fifths*** дзьве пя́тыя
**fiftieth** [ˈfɪftiəθ] – adj. 1. пяцьдзяся́ты
– n. пяцьдзяся́тая ча́стка
**fifty** [ˈfɪfti] n., pl. **-ties** пяцьдзяся́т: ***fifty-five*** пяцьдзяся́т пяць
**fifties, the** [ˈfɪftiz] 1. пяцьдзяся́тыя гады́ (*стаго́дзьдзя*). 2. шо́сты дзяся́так (*чалаве́чага ве́ку*)
**fig I** [fɪg] n. 1. фі́га *f.* (*плод і дрэ́ва*). 2. ***I don't care a fig for your opinion*** нача́хаць мне на тваю́ ду́мку
**fig II** [fɪg] – n., Informal 1. убо́р -у *m.*, стро́і *pl.*, убра́ньне *n.* 2. стан -у *m.*; фо́рма -*f.*: ***in full fig*** у по́ўным убо́ры *або́* рышту́нку
– v.t. (**-gg-**) убіра́ць, выстро́йваць
**fight** [faɪt] – n. 1. змага́ньне *n.*; бо|й -ю *m.*, бі́тва *f.*, бо́йка *f.* 2. зва́да *f.*; сва́рка *f.*, спрэ́чкі *pl.*
– v., **fought, fighting** змага́цца; бі́цца
• ***fight back*** супраціўля́цца, адбіва́цца
**fighter** [ˈfaɪtər] n. 1. змага́р -а́ *m.*, барацьбі́т -а́ *m.* 2. баксёр -а *m.* 3. самалёт-зьнішча́льнік
**figuration** [ˌfɪgjəˈreɪʃən] n. 1. фо́рма *f.*; абры́с, ко́нтур -у *m.* 2. фармава́ньне *n.*, надава́ньне фо́рмы, афармле́ньне *n.* 3. арнамэнта́цыя *f.*
**figurative** [ˈfɪgjərətɪv] adj. 1. фігура́льны (*сло́ва, паэ́зія*), перано́сны (*значэ́ньне сло́ва*). 2. сымбалі́чны
**figuratively** [ˈfɪgjərətɪvli] adv. у перано́сным сэ́нсе
**figure** [ˈfɪgjər] – n. 1. лі́чба: ***Arabic figures and Roman figures*** ара́бскія й ры́мскія лі́чбы. 2. ко́лькасьць, ва́ртасьць *f.*, кошт -у *m.* 3. Geom. фігу́ра *f.*, це́ла *n.* 4. фігу́ра *f.*, стан -у *m.*, по́стаць, будо́ва *f.*, вы́гляд -у *m.* (*чалаве́ка*). 5. фо́рма *f.*, абры́с -у *m.* 6. вы́датная асо́ба, фігу́ра *f.* (*у гісто́рыі*), хара́ктар -а *m.* (*у рама́не*). 7. во́браз -у *m.*: ***figure of perfection*** во́браз дасканаласьці. 8. малю́н|ак -ку *m.*, дыягра́ма, ілюстра́цыя *f.* 9. узо́р -у *m.* (*на ткані́не*). 10. сы́мбал|ь -ю *m.*, эмбле́ма *f.*
– v.t. 1. падлі́чваць; вылі́чваць. 2. абазнача́ць лі́камі. 3. перадава́ць, пака́зваць, адлюстро́ўваць, ілюстрава́ць. 4. аздабля́ць, упрыго́жваць, убіра́ць (*фігу́рамі, узо́рам або́ арнамэ́нтам*). 5. сымбалізава́ць. 6. Informal ду́маць, меркава́ць. 7. уяўля́ць сабе́
– v.i. 1. лічы́ць, рахава́ць. 2. займа́ць ме́сца (*у гісто́рыі*), фігурава́ць
• ***a figure of speech*** рытары́чная фігу́ра мо́вы (*мэта́фара, параўна́ньне, гіпэ́рбала*)
• ***figures*** лічэ́ньне *n.*, арытмэ́тыка *f.*
**figure on** Informal лічы́ць, разьлі́чваць на *каго́-што*, здава́цца; спадзява́цца на *каго́-што*
**figure out** 1. падлі́чваць, вылі́чваць. 2. разуме́ць, дахо́дзіць; даду́мвацца
**figure skating** фігу́рнае ката́ньне на канька́х
**filament** [ˈfɪləmənt] n. ні́тка, ні́тачка *f.*, дро́цік -а *m.*
**filbert** [ˈfɪlbərt] n. ляшчы́навы арэ́х
**filch** [fɪltʃ] v.t. скра́сьці (*не́шта мало́е*), сьцягну́ць
**file I** [faɪl] – n. 1. картатэ́ка *f.* (*збор ка́ртак або́ скры́нка, у яко́й яны́ трыма́юцца*). 2. падшы́тыя а́кты, папе́ры; па́пка *f.* 3. рад -у *m.*, *pl.* рады́; шарэ́нга, ліне́йка *f.*
– v.t. 1. адкладáць *або́* падшыва́ць (*папе́ры, дакумэ́нты*), рэгістрава́ць. 2. перадава́ць у архі́ў
– v.i. 1. маршырава́ць *або́* ісьці́ цу́гам (*адзі́н за адны́м*). 2. падава́ць (*зая́ву, дакумэ́нт*): ***to file charges*** пада́ць абвінава́чаньне на *каго́*
• ***in file*** у рад (*адзі́н за адны́м*), цу́гам, ланцуго́м, ланцужко́м
• ***keep on file*** мець на ўлі́ку, у картатэ́цы
**file II** [faɪl] – n. напі́льнік -а *m.*

– v.t. падпілóўваць

**filibuster** [ˈfɪlɪbʌstər] n. 1. флібуст'éр -а *m.* 2. абструкцыя *f.* (*у парлямэнце*). 3. абструкцыяніст -а *m.*

**filing cabinet** шáфа, шáфка з шуфлядамі для картатэкі, дакумэнтаў; шуфлядзнік -а *m.*

**filings** [ˈfaɪlɪŋz] n., pl. пілавíньне (*асабл. мэталёвае*)

**fill** [fɪl] – v.t. 1. напаўняць; запаўняць (*зáлю, час*): ***The crowd filled the hall*** Натóўп запóўніў зáлю. 2. задавóльваць (*смáгу, патрэбы*); карміць. 3. выкóнваць замóвы (*прадпісáньне лéкара*). 4. плямбавáць (*зуб*). 5. займáць (*пасáду, станóвішча*): ***to fill a diplomatic post*** займáць дыпляматычную пасáду. 6. рыхтавáць лек (*павóдле рэцэпту*). 7. (*пра вéцер*) надзімáць (*вéтразі*). 8. засыпáць; закідáць (*яму, роў пяскóм*). 9. фальшавáць, падрабляць

– v.i. напаўняцца, запаўняцца

– n. дастаткóвая кóлькасьць: ***one's fill*** удóсыць, увóлю; ***to eat (to drink, weep) one's fill*** наéсьціся (напíцца, наплáкацца) удóсыць, увóлю. 3. жвір -у *m.*, камéньне (*для засыпáньня*)

• ***fill in*** а) замáзаць (*расшчэпіну*). б) напóўніць *чым*; устáвіць (*дáту ў заяве*)

• ***fill in the time*** займáцца чым-н. у вóльны час, бáвіць час

• ***fill out*** а) напаўняць, надзімáць (*шыны павéтрам*). б) патаўсьцéць, пакруглéць, папрáвіцца: ***Her cheeks have filled out*** Ейныя шчóкі пакруглéлі. в) запаўняць (*анкéту*)

• ***fill up*** цáлкам запóўніць, напóўніць, засыпаць, закідаць (*пяскóм яму, бак бэнзынам*)

**filled** [fɪld] adj. 1. пóўны, напóўнены; ахóплены, апáнаваны (*рáдасьцю*). 2. з начынкай, з дамéшкай

**fillet** [ˈfɪlɪt] – n. 1. стýжка *f.*, вýзкая павязка на галавý. 2. вýзкая палóска з мэтáлу ці іншага матэрыялу. 3. філé, *indecl., n.* (*рыбнае, мяснóе*)

– v.t. 1. завязваць на галавý павязку. 2. рабíць філé з рыбы, мяса

**filling** [ˈfɪlɪŋ] n. 1. начынка *f.* 2. плёмба *f.* (*у зýбе*). 3. Textile утóк -у *m.*

**filling station** бэнзынавая калёнка

**fillip** [ˈfɪlɪp] – v.t. 1. пстрыкаць. 2. кíдаць. 3. узбуджáць, пабуджáць; ажыўляць

– v.i. давáць пстрычку

– n. 1. пстрычка *f.* 2. узбуджáльнік -а *m.* (*апэтыту*)

**film** [fɪlm] – n. 1. абалóнка *f.*, тóненькае пóкрыва, пласт -у *m.*; эмýльсія *f.* 2. стýжка *f.*; фатаграфíчная стýжка. 3. кінастýжка *f.*; фíльм -у *m.* 4. перапóнка *f.* 5. далікáтная тканíна. 6. цьмянасьць уваччý (*ад сьлёзаў*)

– v. 1. пакрывáць (-ца), зацьмявáць (-ца) (*пра вóчы ад сьлёзаў*). 2. фільмавáць, здымáць на стýжку, накрýчваць на стýжку

**filmy** [ˈfɪlmi] adj. 1. цянюткі. 2. невыразны, затумáнены

**filter** [ˈfɪltər] – n. фíльтлар -ра *m.*

– v.t. фільтравáць; цадзíць, працэджваць

– v.i. прасóчвацца

**filth** [fɪlθ] n. 1. бруд -у *m.*, адкíды *pl.*, сьмéцьце *n.* 2. непрыстóйныя слóвы *або́* дýмкі; нікчэмнасьць *f.*, марáльны бруд, марáльная сапсавáнасьць, разбэшчанасьць *f.*

**filthy** [ˈfɪlθi] adj. 1. а) брýдны; агíдны. б) нячысты, запэцканы: ***filthy hands*** запэцканыя рýкі. 2. марáльна гнілы; нікчэмны; непрыстóйны, брыдкі (*слóвы*); брýдны: ***a filthy story*** брýдная гістóрыя

**filtrate** [ˈfɪlreɪt] – n. вáдкасьць, прапýшчаная празь фíльтар, фільтрáт -у *m.*

– v. фільтравáць

**fin** [fɪn] n. 1. плáўнік -а *m.* (*у рыбы*). 2. кіл|ь -я *m.* (*у самалёце*)

**final** [ˈfaɪnəl] – adj. 1. апóшні. 2. канчаткóвы (*мэта*); беспаварóтны, канчáльны (*пастанóва*): ***final result*** канчаткóвы вынік

– n. 1. апóшні, канцавы (*экзáмен*). 2. фінáл -у *m.* (*у спóрце*)

**finally** [ˈfaɪnəli] adv. 1. нарэшце, урэшце: ***they came finally*** яны нарэшце пры-

йшлí. 2. канчáльна, канчаткóва: ***to conquer finally*** канчáльна перамагчы́

**finance** [ˈfaɪnæns] – n. грашóвыя спрá-вы, фінáнсы *pl.only*. ***public finance*** дзяржáўная фінáнсавая гаспадáрка
– v.t. [fəˈnæns] 1. фінансавáць. 2. кіра-вáць фінáнсамі
– v.i. вéсьці фінáнсавыя апэрáцыі

**financial** [fəˈnænʃəl] adj. грашóвы; фі-нáнсавы

**financier** [ˌfɪnənˈsɪr] – n. фінансíст -а *m.*
– v.t. 1. фінансавáць. 2. кіравáць фінáнсамі
– v.i. займáцца фінáнсавымі апэрáцы-ямі

**finch** [fɪntʃ] n. берасьця́нка *f.* (*птýшка*)

**find** [faɪnd] – v., **found, finding** 1. знахó-дзіць; адшýкваць. 2. выяўля́ць; бá-чыць; лічы́ць; адчувáць; заўважáць: ***We found that he could not swim*** Мы пабáчылі, што ён ня ўмée плáваць; ***We find the prices high*** Мы ўважá-ем, што цэ́ны высóкія; ***He found that he was growing sleepy*** Ён адчýў, што засынáе. 3. дахóдзіць; трапля́ць: ***Water finds its level*** Вадá дайшлá да свайгó ўзрóўню. 4. Law прызнавáць; устанаўля́ць (*віну́*)
– n. 1. адкрыццё *n.* 2. вялíкая вáр-тасная знáхадка
• ***find oneself*** а) знайсьці сябé (*сваé здóльнасьці, схíльнасьці*). б) апы-нýцца; знайсьцíся; трáпіць: ***He found himself in a dilemma*** Ён апынýўся пéрад дылéмай
• ***find out*** давéдвацца; пазнавáць; ад-крывáць

**finding** [ˈfaɪndɪŋ] n. 1. знахóджаньне *n.* (*працэ́с*), адкрыццё *n.* 2. знахóдка *f.* (*вы́нік*). 3. Law пастанóва, вы́несеная пасьля́ дасьлéдаваньня спрáвы

**fine I** [faɪn] – adj. 1. высакая́касны, вéльмі дóбры, дасканáлы, выдáтны, фáйны. 2. ачы́шчаны, высакапрóбны (*пра зóлата*). 3. вéльмі дрóбны *абó* тóнкі; далікáтны: ***fine lace*** тóнкія карýнкі; ***fine skin*** далікáтная скýра. 4. вóстры: ***a fine edge*** вóстрае лязó. 5. тóнкі: ***fine distinction*** тóнкае адрó-зьненьне. 6. прыгóжы; зграбны (*ча-лавéк*); вы́танчаны (*пра стыль мó-вы*). 7. харóшы, пагóдны (*пра над-вóр'е*). 8. кваліфікавáны (*настáўнік*)
– adv., Informal фáйна, выдáтна

**fine arts** выяўлéнчае мастáцтва, пры-гóжыя мастáцтвы.

**fine II** [faɪn] – n. штраф -у *m.*
– v.t. штрафавáць; накладáць штраф на *кагó*

**finely** [ˈfaɪnli] adv. 1. увáжна, даклáдна; руплíва. 2. элегáнтна: ***a finely dressed woman*** элегáнтна апрáнутая жанчы́на

**fineness** [ˈfaɪnnəs] n. 1. тóнкасьць *f.* (*лí-ніі, нíткі, дрóту, ігóлкі*). 2. вастрыня́, *f.* 3. лагóднасьць, я́снасьць *f.* (*на-двóр'я*). 4. дабрая́каснасьць, дасканá-ласьць *f.* (*матэрыя́лаў*). 5. прапóрцыя чы́стага зóлата *абó* срэ́бра (*у сплáве*)

**finger** [ˈfɪŋgər] – n. 1. пáл|ец -ьца *m.* (*ру-кí і пальчáткі*): ***little finger*** мéзен|ец -ца *m.* 2. стрэ́лка (*гадзíньніка, прый-мачá*)
– v. 1. дакранáцца пáльцамі. 2. грáць пáльцамі на інструмэ́нце. 3. крáсьці (*штó-н. малóе*), сьцягнýць. 4. Sl. пакáзваць на *кагó*; выдавáць *кагó*; здрáджваць *камý*
• ***burn one's fingers*** патрáпіць у бя-дý, лéзучы не ў сваё
• ***have a finger in the pie*** а) мачáць пáльцы, удзéльнічаць у чым-н. б) мяшáцца; перашкаджáць
• ***twist around one's (little) finger*** аб-вéсьці вакóл пáльчыка

**finger alphabet** альфабэ́т глуханямы́х

**finger board** 1. грыф -а *m.* (*скры́пкі, гі-тáры*). 2. клявіятýра *f.* (*піянíна, аргá-наў*)

**fingerprint** [ˈfɪŋgərprɪnt] n. адбíтак пáль-ца

**fingertip** [ˈfɪŋgərtɪp] n. кóнчык пáльца: ***at one's fingertips*** а) дóбра вéдамы, асьвядóмлены. б) пад рукóй

**finish** [ˈfɪnɪʃ] – v.t. 1. канчáць. 2. закáнч-ваць (*вучóбу, будóўлю*). 3. спажы-

ва́ць да канца́; даяда́ць; дапіва́ць (*да канца́*). 4. Informal а) змардо́ўваць, змо́рваць. б) дабіва́ць; дако́нваць; дака́нчваць. 5. апрацо́ўваць (*ру́капіс*); выгла́джваць (*паве́рхню*), выраўно́ўваць. 6. дапаўня́ць адука́цыю
– v.i. 1. канча́цца. 2. Obsol. паміра́ць
– n. 1. заканчэ́ньне *n.*, канле́ц -ца́ *m.* 2. дасканаласьць, зако́нчанасьць *f.* 3. апрацо́ўваньне *n.* (*ткані́ны*), апрацо́ўка *f.* (*тэ́ксту*); адстро́йваньне *n.* (*до́му, кватэ́ры*) і матэрыя́л ужыва́ны для гэ́тага
• ***finish off*** а) зако́нчыць. б) змардава́ць; зьні́шчыць; дабі́ць; дако́нчыць; дакана́ць
• ***finish up*** а) зако́нчыць (*пра́цу*). б) ужы́ць да канца́
• ***finish with*** а) спыні́ць, не працяга́ваць. б) парва́ць сябро́ўства з *кім*

**finished** [ˈfɪnɪʃt] adj. 1. ско́нчаны, ко́нчаны. 2. зако́нчаны, гато́вы. 3. дасканáлы, беззага́нны. 4. адпалі́раваны, гла́дкі

**Finn** [fɪn] n. фін -а *m.*, фі́нка *f.*, жыха́р Фінля́ндыі

**Finnish** [ˈfɪnɪʃ] – adj. фі́нскі
– n. фі́нская мо́ва

**Finno-Ugrian** [ˌfɪnoʊˈju:griən] or **Finno-Ugric** [ˌfɪnoʊˈju:grɪk] – adj. фі́на-вугорскі
– n. фі́на-вуго́рская сям'я́ мо́ваў

**fir** [fɜ:r] n. пі́хта *f.*; ялі́на, е́лка *f.*, е́лачка *f., dim.*

**fir apple** or **fir cone** яло́вая шы́шка

**fire** [ˈfaɪr] – n. 1. аг|о́нь -ню́ *m.*, по́лымя *n.*: ***to light the fire*** запалі́ць у пе́чы. 2. пажа́р -у *m.* 3. запа́л, узды́м -у *m.*; натхне́ньне *n.*; па́лкасьць, палымя́насьць, жва́васьць *f.*: ***full of patriotic fire*** по́ўны патрыяты́чнага запа́лу. 4. пяку́чы боль, ліхама́нка *f.*; запале́ньне *n.* 5. Milit. аг|о́нь -ню́ *m.*, стральба́ *f.*; абстрэ́л -у *m.* 6. закі́дваньне (*пыта́ньнямі, кры́тыкай*)
– v.t. 1. запа́льваць (*дро́вы*), падпа́льваць (*дом*). 2. палі́ць у пе́чы. 3. абпа́льваць (*керамі́чныя вы́рабы, цэ́глу*). 4. сушы́ць (*гарба́ту, тыту́нь*). 5. узбуджа́ць, распа́льваць (*фанта́зію*). 6. страля́ць, палі́ць (*за́лпам*). 7. Informal кіда́ць (*ка́менем*). 8. Informal звальня́ць (*з пра́цы*)
– v.i. 1. загара́цца (*агнём, зло́сьцю, энтузія́змам*). 2. страля́ць (*са стрэ́льбы, гарма́ты*). 3. абпа́львацца (*як цэ́гла*)
• ***be under fire*** а) быць пад варо́жым абстрэ́лам. б) быць прадме́там напа́дак *або́* абвінава́чаньняў
• ***between two fires*** памі́ж двух агнёў
• ***catch fire*** а) загарэ́цца, заня́цца агнём. б) запалі́цца (*энтузія́змам*)
• ***fire off*** вы́пусьціць (*раке́ту або́ касьмі́чны карабе́ль*)
• ***fire up*** а) распалі́ць кіпяці́льнік, печ. б) узлава́цца, ускіпе́ць. в) пусьці́ць машы́ну, прыве́сьці ў рух машы́ну
• ***go through fire and water*** прайсьці́ аго́нь, ваду́ й ме́дныя тру́бы
• ***lay a fire*** раскла́сьці аго́нь або́ во́гнішча
• ***on fire*** а) у агні́; б) по́ўны запа́лу
• ***play with fire*** гуля́ць з агнём
• ***set fire to*** падпа́льваць
• ***set on fire*** а) падпалі́ць. б) захапі́ць

**fire alarm** 1. пажа́рная трыво́га. 2. аўтаматы́чны пажа́рны сыгна́л

**firearms** [ˈfaɪrɑ:rmz] n., pl. па́льная збро́я

**firebrand** [ˈfaɪrbrænd] n. 1. ахо́пленая полымем галаве́шка. 2. бунта́р -а́ *m.*, баламу́т, інтрыга́н -а *m.*

**firebrick** [ˈfaɪrbrɪk] n., pl. **-s** or coll. **-brick** во́гнетрыва́лая цэ́гла

**fire department** аддзе́л пажа́рнай ахо́вы

**fire engine** пажа́рная машы́на

**fire fighter** 1. пажа́рнік -а *m.* 2. асо́ба, яка́я змага́ецца з лясны́мі пажа́рамі

**firehouse** [ˈfaɪrhaʊs] n. пажа́рнае дэпо́, пажа́рная *f.*

**fireman** [ˈfaɪrmən] n., pl. **-men** 1. пажа́рнік -а *m.* 2. качага́р -а *m.*

**fireplace** [ˈfaɪrpleɪs] n. камі́н -а *m.*

**fireproof** [ˈfaɪrpru:f] adj. 1. во́гнетрыва́лы. 2. незгара́льны (*сэйф*)

**fire screen** камінны экра́н, засло́нка
**firewood** [ˈfaɪrwʊd] n. дро́вы *pl. only*
**fireworks** [ˈfaɪrwɜːrks] n., pl. 1. фэервэ́рк -у *m.* 2. Informal фэервэ́рк сло́ваў, бу́рная крыклі́вая спрэ́чка
**firing** [ˈfaɪrɪŋ] n. 1. стральба́, страляні́на *f.*; стрэл -у *m.* 2. абпа́льваньне *n.* (*керамі́чных вы́рабаў, цэ́глы*). 3. Med. прыпяка́ньне *n.* (*ра́ны*). 4. апа́л -у *m.*
**firm I** [fɜːrm] – adj. 1. тугі́, цьвёрды, цьвярды́; мо́цны: ***firm ground*** цьвёрды грунт; ***firm land*** су́ша *f.*; сухазе́м'е *n.*; ***firm muscle*** тугі́ му́скул. 2. мо́цны, непахі́сны (*ве́ра, надзе́я*): ***firm decision*** непахі́сная пастано́ва; ***a firm step*** цьвёрды крок, цьвёрдая хада́. 3. нава́жаны; рашу́чы (*ме́ры*); станаўкі́, стано́ўкі; насто́йлівы (*хара́ктар*). 4. ста́лы (*пра цэ́ны*)
– v.t. 1. умацо́ўваць, мо́цна трыма́ць. 2. убіва́ць, уто́птваць; утрамбо́ўваць (*ускапа́ную зямлю́*)
– v.i. умацо́ўвацца
**firm II** [fɜːrm] n. фі́рма *f.* (*прамысло́вае або́ гандлёвае прадпрыёмства*)
**firmness** [ˈfɜːrmnəs] n. 1. моц *f.* (*жале́за*), трыва́ласьць *f.*, мацу́н|ак -ку *m.* (*напо́ю*). 2. вы́трыманасьць *f.* (*хара́ктару*), сі́ла *f.*: ***firmness of spirit*** сі́ла ду́ху; непахі́снасьць, цьвёрдасьць *f.* (*паглы́даў*)
**first** [fɜːrst] – adj. 1. пе́ршы. 2. найвышэ́йшы (*го́лас у му́зыцы*): ***in the first place*** перш, найпе́рш; перш-на́перш, спача́тку, у пе́ршую чаргу́; ***(the) first thing*** як мага́ ране́й: ***first thing in the morning*** як мага́ ране́й
– adv. 1. перш; ране́й, найпе́рш: ***First bring (me) the coffee*** Пе́рш прынясі́ мне ка́ву. 2. упершыню́, пе́ршы раз. 3. хутчэ́й, бaржджэ́й
– n. 1. пе́рш|ы -ага *m.*, пе́ршая *f.*, *pl.* пе́ршыя. 2. пе́ршае ме́сца ў спабо́рніцтве *або́* ко́нкурсе. 3. пача́т|ак -ку *m.*: ***the first of storm*** пача́так навальні́цы. 4. найвышэ́йшы го́лас *або́* інструмэ́нт, які́ бярэ́ гэ́ты го́лас
• ***at first*** or ***at the first*** спача́тку
• ***from first to last*** ад пе́ршага да апо́шняга
• ***from the first*** ад са́мага пача́тку
**first aid** пе́ршая дапамо́га
**first-aid** [ˌfɜːrstˈeɪd] adj. для пе́ршае дапамо́гі: ***first-aid kit*** сaніта́рны паке́т
**first-born** [ˈfɜːrstbɔːrn] – adj. першаро́дны
– n. першын|е́ц -ца́ *m. & f.*, першаро́дная *f.*, пе́ршае дзіця́
**first class** пе́ршая кля́са (*у цягніку́, самалёце*)
**first-class** [ˌfɜːrstˈklæs] adj. першакля́сны, выда́тнай я́касьці; узо́рны
**first cousin** стрые́чны брат, стрые́чная сястра́
**first finger** указа́льны па́лец
**first floor** ні́жні паве́рх; Brit. другі́ паве́рх
**first-hand** [ˌfɜːrstˈhænd] adj., adv. зь пе́ршых рук, непасрэ́дна: ***first-hand information*** інфарма́цыя зь пе́ршых рук
**firstly** [ˈfɜːrstli] adv. 1. перш, найпе́рш; перш-на́перш. 2. пе́ршае, па-пе́ршае
**first name** імя́
**first-name** [ˈfɜːrstneɪm] v.t. называ́ць *каго́* па і́мі
**first-rate** [ˌfɜːrstˈreɪt] – adj. 1. першакля́сны, першара́дны: ***of first-rate importance*** першара́днае ва́жнасьці. 2. Informal дасканáлы, ве́льмі до́бры
– adv. ве́льмі до́бра выда́тна
**fiscal** [ˈfɪskəl] adj. фіска́льны, фіна́нсавы: ***fiscal year*** бюджэ́тны год
**fish** [fɪʃ] – n., pl. **fishes**, coll. **fish** 1. ры́ба, ры́біна *f.*: ***fish are biting*** ры́ба то́ргае. 2. Informal чалаве́к -а *m.*, тып -а *m.*: ***an odd fish*** дзіва́к
– v.t. 1. лаві́ць; ву́дзіць ры́бу; рыба́чыць. 2. знахо́дзіць; выця́гваць
– v.i. 1. лаві́ць ры́бу. 2. (for) шука́ць (*пад вадо́ю*): ***to fish for pearls*** шука́ць пэ́рлаў (*пад вадо́ю*). 3. (for) напро́швацца (*на камплімэ́нт*)
– adj. 1. ры́бны, ры́бін: ***fish scale*** ры́біна лу́ска; ***fish trade*** ры́бны га́ндаль. 2. рыбало́ўны
• ***fish-and-chips*** Brit. сма́жаная ры́ба са сма́жанай бу́льбай

• ***fish in troubled waters*** лавіць ры́бу ў каламу́тнай вадзе́

• ***fish out*** а) вы́лавіць усю́ ры́бу. б) вы́пыта|ць (*сакрэ́т*), вы́цягнуць (*інфарма́цыю*)

• ***fish soup*** ю́шка *f.*

**fish ball** or **cake** ры́бная галу́шка *або́* катле́та

**fisher** [ˈfɪʃər] n. рыба́к -а́ *m.*

**fisherman** [ˈfɪʃərmən] n., pl. **-men** 1. рыба́к -а́ *m.* 2. рыба́цкі чо́вен

**fishery** [ˈfɪʃəri] n., pl. **-eries** 1. рыба́цтва *n.* (*як заня́так: ло́ўля або́ гадо́ўля ры́бы*), рыбны́ про́мысел. 2. ры́бнае ме́сца; ме́сца, дзе гаду́юць ры́бу. 3. дазво́л на ры́бную ло́ўлю

**fishhook** [ˈfɪʃhʊk] n. кручо́|к -ка́ *m.* (*да лёскі*)

**fishing** [ˈfɪʃɪŋ] n. 1. ву́джаньне ры́бы; рыбна́я ло́ўля: ***to go fishing*** пайсьці́ на рыба́лку. 2. ме́сца для ло́ўлі ры́бы; ры́бнае ме́сца

**fishing ground** ры́бнае ме́сца, бага́тае на ры́бу

**fishing hole** пало́нка ў лёдзе для ло́ўлі ры́бы

**fishing line** лёска (*да ву́ды*)

**fishing rod** ву́да *f.*, вудзі́льна *n.*

**fishing tackle** рыба́цкая снасьць (*ву́ды, се́тка*)

**fishless** [ˈfɪʃləs] adj. бязры́бны

**fish line** лёска (*ву́ды*)

**fishmonger** [ˈfɪʃˌmʌŋgər] n. гандля́р ры́бай

**fish oil** ры́бны тлушч

**fishy** [ˈfɪʃi] adj. 1. ры́бны (*пах, смак*); ры́бін; з ры́бы. 2. по́ўны ры́бы, бага́ты ры́бай. 3. Informal няпэ́ўны, непраўдападо́бны; падазро́ны, цёмны: ***a fishy story*** непраўдападо́бная гісто́рыя. 4. цьмя́ны, бяз вы́разу: ***fishy eyes*** цьмя́ныя, невыра́зныя во́чы

**fissile** [ˈfɪsəl] adj. 1. распа́длівы, які́ лёгка расшчапля́ецца. 2. здо́льны да я́дзернага распа́ду

**fission** [ˈfɪʃən] n. 1. расшчапле́ньне *n.*, падзе́л, распа́д на ча́сткі. 2. Biol. размнажэ́ньне шля́хам дзяле́ньня кле́так. 3. Phys., Chem. расшчапле́ньне а́тамнага ядра́ пры я́дзернай рэа́кцыі

**fissionable** [ˈfɪʃənəbəl] adj. распа́длівы, здо́льны да я́дзернага распа́ду

**fissure** [ˈfɪʃər] – n. 1. расшчэ́піна, трэ́шчына, раско́ліна *f.*: ***a fissure in a rock*** раско́ліна ў скале́. 2. расшчэ́пліваньне *n.*, дзяле́ньне на ча́сткі. 3. Anat. зьві́ліна *f.* (*у мазга́х*)

– v.t. расшчапля́ць, дзялі́ць на ча́сткі

– v.i. расшчапля́цца

**fist** [fɪst] – n. кула́к -а́ *m.*

– v.t. біць кулака́мі, кулако́м

**fit I** [fɪt] – adj. 1. адпаве́дны; які́ ма́е кваліфіка́цыі; прыго́дны, го́дны, зда́тны, прыда́тны: ***a man fit to be a chairman*** чалаве́к, які́ ма́е зда́тнасьць быць старшынёю; ***Grass is a fit food for cows*** Трава́ прыда́тная для ко́рму каро́вам. 2. пра́вільны, нале́жны, адпаве́дны: ***fit time and place*** адпаве́дны час і ме́сца. 3. гато́вы, падрыхтава́ны, здо́льны: ***I am fit for another mile*** Я магу́ прайсьці́ яшчэ́ мі́лю; ***fit for dispatch*** гато́вы да вы́сылкі. 4. у до́брай фо́рме (*спарто́вец*); у до́брым здаро́ўі; здаро́вы, мо́цны: ***to keep fit*** быць мо́цным, здаро́вым

– v.t. 1. адпавяда́ць *чаму́*, згаджа́цца з *чым*: ***his actions fit his words*** яго́ныя ўчы́нкі згаджа́юцца зь яго́нымі сло́вамі; ***a punishment to fit the crime*** ка́ра, адпаве́дная злачы́нству. 2. пасава́ць: ***The dress fitted Mary*** суке́нка пасава́ла Мары́і. 3. дапасо́ўваць; дабіра́ць, падбіра́ць: ***to fit a key in a lock*** падабра́ць ключ да замка́; ***to fit the words to the music*** падабра́ць сло́вы да мэлёдыі. 4. падрыхто́ўваць. 5. забясьпе́чваць, абсталёўваць: ***to fit a store with counters*** пабудава́ць у кра́ме прыла́ўкі

– v.i. пасава́ць, ляжа́ць: ***The dress fits perfectly*** суке́нка пасу́е дасканал́а

– n. 1. дапасо́ўваньне, дабіра́ньне *n.* 2. Mech. прыго́нка *f.*, дапасава́ньне *n.*

**fit II** [fɪt] n. 1. пры́ступ -у *m.*, прыпа́д|ак -ку *m.*: ***a fainting fit*** абамле́ньне *n.*,

непрытóмнасьць *f.*; ***a fit of epilepsy (of anger)*** прыстýп эпілéпсіі (гнéву); ***a fit of energy*** (*раптóўны і часóвы*) прыплы́ў энэ́ргіі
**fitch** [fɪtʃ] n. тхlор -арá *m.*, шашlóк -кá *m.*
**fichet** [ˈfɪtʃɪt] or **fitchew** [ˈfɪtʃu:] *гл.* **fitch**
**fitful** [ˈfɪtfəl] adj. 1. парыўвісты (*вéцер*); сýтаргавы, нерэгуля́рны, зь перабóямі (*гýтарка, пульс*). 2. мігатлíвы: ***fitful gleams*** мігатлíвае сьвятлó
**fittings** [ˈfɪtɪŋz] n., pl. рэ́чы, мэ́бля; асьвятля́льныя прылáды
**five** [faɪv] n. пяць; пяцёра, пяцёх; пяцёрка *f.* (*кáрта, банкнóт*): ***five children*** пяцёра дзяцéй; ***five sons*** пяцёх сынóў
**fivefold** [ˈfaɪvfoʊld] – adj. 1. пяціразóвы. 2. які́ мáе пяць чáстак
– adv. у пяць разóў больш
**five thousand** пяць ты́сячаў
**five-thousandth** пяціты́сячны
**five times** пяцьмá, пяць разóў
**fix** [fɪks] **fixed** or **fixt**, – v.t. 1.замацóўваць (*і ў пáмяці*), мóцна ўмацóўваць, убівáць (*у зямлю́ кол*). 2. пастанаўля́ць, прызначáць (*цанý, дáту*). 3. прыця́гваць (*увáгу, пóзірк*), затры́мваць, спыня́ць (*увáгу, пóзірк*), утарóпваць, утарóпвацца. 4. фіксавáць; замацóўваць (*апрацóўваць замацавáльнікамі фáрбу, здымак*). 5. лáдзіць (*чаравíкі*); лáтаць, лáпіць (*вóпратку*); цыравáць (*панчóхі*); рамантавáць (*машы́ну, хáту*); напраўля́ць папсавáнае. 6. Informal парáдкаваць, прычэ́сваць (*валасы́*), папраўля́ць фрызýру. 7. Informal рабíць несумлéнную камбінáцыю: ***to fix a jury*** падкупíць прыся́жных. 8. Informal пóмсьціць; карáць. 9. Chem. згушчáць; зьвя́зваць. 10. рыхтавáць; гатавáць, гатавáць, вары́ць (*éжу, пóлудзень*)
– n. 1. цяжкóе, безвыхóднае *абó* дзíўнае станóвішча. 2. вызначэ́ньне месцазнахóджаньня (*самалёта, вадаплáва*). 3. Sl. а) хáбар, пóдкуп -у *m.* б) дóза наркóтыкаў
• ***fix on, upon*** пастанавíць, вы́браць (*дáту*)
• ***fix up*** Informal а) падпрáвіць, зашы́ць (*дзíрку*), залáтаць; зацыравáць; палáдзіць паламáнае. б) упарáдкаваць (*дом*); улáдзіць. в) убрáцца
**fixation** [fɪkˈseɪʃən] n. 1. фіксáцыя *f.*, замацóўваньне (*фáрбаў, здымкаў*). 2. Chem. згушчэ́ньне *n.* 3. мáнія *f.*
**fixed** [fɪkst] adj. 1. нерухóмы, неперасóўны, стáлы, замацавáны; цьвёрды (*пра цэ́ны*). 2. вы́значаны, акрэ́сьлены; усталявáны, стáлы (*плáта за таксí*). 3. пíльны, увáжлівы; утарóплены: ***a fixed gaze*** пíльны, утарóплены пóзірк. 5. Informal зáгадзя дамóўлены (*вы́нік мáтчу*); змахлявáны. 6. Chem. зьвя́заны, нелятýчы
**fixed capital** аснóўны капітáл (*зямля́, будынкі, машы́ны*)
**fixed idea** неадчэ́пная дýмка, ідэ́я фікс
**fixity** [ˈfɪksəti] n., pl. **-ties** 1. нерухóмасьць; нязьмéннасьць, трывáласьць *f.*; устóйлівасьць *f.*, моц *f.* 2. увáжнасьць, пíльнасьць *f.* (*пóзірку*)
**fixture** [ˈfɪkstʃər] n. 1. прылáда, наглýха прырóбленая рэч, прыстасавáньне, стáлая чáстка чагó-н.: ***bathroom fixtures*** прылáды вáннага пакóю; ***lighting fixtures*** асьвятля́льныя прылáды. 2. асóба *абó* рэч, якáя застаéцца дóўгі час на адны́м мéсцы
**fizz** [fɪz] – v.i. шыпéць
– n. шыпéньне *n.*, шыпýчы напóй (*як шампáнскае*)
**fizzle** [ˈfɪzəl] – v. слáба шыпéць *абó* пы́рскаць
– n. 1. шыпéньне, пы́рсканьне *n.* 2. Informal няўдáча *f.*; правáл -у *m.*, фія́ска, *indecl.*
• ***fizzle out*** закóнчыцца няўдáчай
**fizzy** [ˈfɪzi] adj. шыпýчы (*пра напóй*)
**fjord** [fiˈɔ:rd] n. фіёрд -у *m.*
**flabbiness** [ˈflæbinəs] n. вя́ласьць, абвíсласьць, адвíсласьць *f.*; слабавóльнасьць, слабахарáктарнасьць *f.*
**flabby** [ˈflæbi] adj. 1. адвíслы, абвíслы, мя́ккі; вя́лы (*пра цéла*): ***flabby cheeks***

адвíслыя шчóкі. 2. слабы́: ***a flabby nature*** слабы́ харáктар

**flaccid** [ˈflæksɪd] adj. слабы́, вя́лы; адвíслы (*пра галíны*): ***flaccid muscles*** слабы́я, мя́ккія мýскулы; ***a flaccid will*** слабáя вóля

**flag I** [flæg] – n. 1. сьцяг -у *m.* 2 Mus. сьцяжóк на нóце. 3. шáпка *f.*, назóў газэ́ты (*на тытýльнай бачы́не*)
– v.t. 1. вывéшваць сьцяг, прыбірáць сьцягáмі. 2. сыгналізавáць *абó* затры́мваць сьцяжкóм (*цягнíк*)
• ***flags*** дóўгія пёры на нагáх некатóрых птýшак (*каршунá, савы́*)

**flag II** [flæg] n. Bot. касáч -á *m., pl.* касачы́

**flag III** [flæg] **(-gg-)** v.i. падупáсьці, зьвя́нуць; аслабéць (*пра запáл, зацікаўлéньне*), рабíцца нецікáвым

**flag IV** [flæg] – n. камéнная плітá *f.* (*для брукавáньня*).
– v.t. **(-gg-)** брукавáць, выкладáць камéннымі плíтамі

**flagman** [ˈflægmən] n., pl. **-men** 1. сьцяганóсlец -ца *m.* 2. сыгнáльшчык -а *m.* (*на чыгýнцы, дарóзе*)

**flagrant** [ˈfleɪgrənt] adj. 1. абурáльны, скандáльны; відавóчны: ***a flagrant crime*** жахлíвае злачы́нства; ***a flagrant error*** скандáльная памы́лка. 2. ганéбны: ***You are an old flagrant liar*** Ты стары́ ганéбны манюка

**flagstone** [ˈflægstoʊn] n. 1. камéнная плітá (*для выкладáньня хóднікаў*). 2. плітня́к -ý *m.*

**flail** [fleɪl] – n. цэп -а *m., pl.* цапы́
– v.t. 1. малацíць (*збóжжа*). 2. лупíць, біць; малацíць (*кулакáмі*)

**flair** [fler] n. 1. тóнкае адчувáньне, чуцьцё *n.*; нюх -у *m.* (*і ў жывёлы*). 2. здáтнасьць, здóльнасьць *f.*, нахíл -у *m.*: ***artistic flair*** мастáцкае чуцьцё; прырóджаны тáлент, здáтнасьць

**flake** [fleɪk] – n. 1. лускá, лускавíнка; шматlóк, драбlóк -кá *m.*: ***a flake of snow*** сьняжы́нка *f.* 2. тóненькі пласт
– v.t. 1. дзялíць, драбíць на тóнкія пласты́. 2. адшчапля́ць (*тóнкімі пластáмі*), адкóлваць (*ад кáменя*)
– v.i. 1. лýшчыцца, лупíцца (*пра фáрбу*). 2. пáдаць камякáмі (*пра сьнег*)

**flam** [flæm] n. 1. вы́думка, манá; ілжá *f.* 2. ашукáнства *n.*; махля́рства *n.*

**flame** [fleɪm] – n. 1. пóлымя *n.*: ***a bright flame*** зы́ркае пóлымя. 2. агóнь, языкí агню́. 3. запáл -у *m.* (*гнéву, кахáньня*); палымя́нае пачуцьцё. 4. Informal прадмéт кахáньня: ***my old flame*** маё старóе кахáньне
– v.i. 1. палáць, зы́рка палíцца; гарэ́ць (*пра шчóкі*); выбухáць агнём, палымнéць, зіхацéць; разгарáцца: ***Her face flamed with excitement*** Твар у яé разгарэ́ўся ад хвалявáньня. 2. сьвяцíць, сьвяцíцца; успалы́хваць, шугáць (*агнём, злóсьцю*) ***to flame out*** раптóўна перастáць дзéяць (*пра рэакты́ўны рухавíк*)
• ***flame out, up*** or ***forth*** а) вы́бухнуць, шуганýць пóлымем. б) вы́бухнуць гнéвам, ускіпéць

**flaming** [ˈfleɪmɪŋ] adj. 1. які́ палáе агнём, у агнí: ***a flaming house*** дом у агнí. 2. агнíсты, я́ркі, зы́ркі, палымя́ны: ***flaming eyes*** палымя́ныя вóчы. 3. бурлíвы, гвалтóўны, неапанавáны, гарáчы: ***flaming youth*** бурлíвая маладóсьць

**flammable** [ˈflæməbəl] adj. гарýчы, запáльны

**flan** [flæn] n. 1. адкры́ты пірóг з садавíнóй абó крэ́мам. 2. кружóк манэ́ты (*яшчэ́ не адчакáненай*)

**flank** [flæŋk] – n. 1. бок -у *m.* (*цéла жывёліны абó чалавéка*). 2. бакавáя чáстка мяснóе тýшы. 3. бок, крылó *n.* (*будынка*). 4. схон -у, схіл -у *m.* (*гары́*). 5. Milit. крылó *n.* , флянг -у *m.*
– v.t. 1. знахóдзіцца збóку, расьцí збóку. 2. ісьцí, маршыравáць абáпал чагó. 3. Milit. а) атакавáць крылó *абó* з крылá. б) абараня́ць крылó. 4. (*пра карабéль*) паварóчвацца бóкам да хвáляў

**flannel** [ˈflænəl] – n. 1. флянэ́ль *f.* (*мя́ккае сукнó*). 2. флянэ́лька *f.* (*бавaўня́ная*)

– adj. флянэ́левы.

– v.t. загóртваць, закрýчваць у флянэ́ль; праціра́ць (*срэ́бра*) флянэ́ляй

**flannels** а) флянэ́левы гарнітýр (*асабл. нагаві́цы*). б) бавáўняная нацéльная бялі́зна

**flap** [flæp] – v.i. **(-pp-)** 1. хістáцца; трапятáць, лапатáць (*пра сьцягí на вéтры, птушы́ныя кры́лы*). 2. пля́скаць (*і крылóм*). 3. шлёпаць (*бóтамі, галёшамі*). 4. пля́скацца ні́цма (*на зямлю́*). 5. махáць кры́ламі: ***The large bird flapped away*** Вялі́кая птýшка адляцéла, лапóчучы кры́ламі

– n. 1. лапатáньне *n.* 2. пляск -у *m.*, пляскáч плескачá *m.* (*удáр*). 3. Sl. бýча, ля́мант, вэ́рхал -у *m.*

• ***flaps on the pockets*** клáпаны на кішэ́нях

**flare** [fler] – v.i. 1. успы́хваць; шугáць, загарáцца. 2. сьвяці́цца. 3. пашырáцца клёшам (*пра спадні́цу*)

– v.t. давáць сьветлавы́я сыгнáлы

– n. 1. успы́шка *f.* (*сьвятлá*), бліск -у *m.* (*запáлкі, малáнкі*) 2. сьветлавы́ сыгнáл. 3. клёш -а *m.* (*спадні́цы*)

• ***flare out*** or ***up*** а) успы́хваць, загарáцца. б) выбухáць гнéвам

**flash** [flæʃ] – n. 1. бліск -у *m.* (*малáнкі*). 2. прóбліск -у *m.* (*надзéі, дóсьціпу*). 3. імгнéньне *n.*, міг -у *m.*; часі́нка *f.* 4. паказнáя бліскýчасьць. 5. карóткае паведамлéньне (*у рáдыё*). 6. мóцная плынь, нáціск вады́. 7. Informal жаргóн злóдзеяў *абó* бадзя́гаў

– v.i. 1. а) бліскаць, успы́хваць: ***to flash into a blaze*** успы́хнуць агнём. б) блі́скаць; сьвяці́цца, зіхацéць, іскры́цца (*шчáсьцем, рáдасьцю*). 2. вéльмі хýтка прабягáць, праяжджáць, пранóсіцца (*пра дýмку, цягні́к*); сігáць. 3. хýтка, незаўвáжна мінáць

– v.t. давáць сьветлавы́я сыгнáлы

– adj. паказны́; крыклі́вы (*вы́гляд*)

**flash fire** раптóўны, жахлі́вы пажáр

**flash flood** раптóўная бýрная павóдка

**flashlight** [ˈflæʃlaɪt] 1. кішэ́нны ліхтáрык *f.* 2. сыгнáльныя агні́ маякá

**flashy** [ˈflæʃi] adj. 1. бліскýчы, зіхатлі́вы, асьляплЯльны. 2. мімалётны, нетрывáлы. 3. крыклі́вы, які́ кі́даецца ў вóчы; прэтэнзі́йны (*пра нáзву, архітэктýру*)

**flask** [flæsk] n. 1. біклáга, біклáжка, пля́шка, пля́шачка *f.* 2. Chem. кóлба *f.* 3. ліцéйная фóрма, апóка *f.*

**flat I** [flæt] – adj. **flatter, flattest** 1. плóскі, рóўны, глáдкі; пляскáты; прыплю́снуты: ***flat land*** раўні́на *f.*: ***flat nose*** пляскáты, прыплю́снуты нос: ***flat tire*** зьдзьмýтая шы́на; ***flat hand*** далóнь. 2. плы́ткі (*талéрка*). 3. катэгары́чны, неаспрэ́чны: ***a flat refusal*** катэгары́чная адмóва. 4. стáлы, нязьмéнны, заўсёды аднóлькавы: ***flat rate*** стáлая (*заўсёды аднóлькавая*) рáта (*аплáты, падáтку*). 5. нýдны, нецікáвы; манатóнны, мля́вы; без жыцьця́, неэнэргі́чны; бяз смáку (*пра éжу*). 6. мáтавы, бяз бля́ску; без адцéньняў, аднакалярóвы: ***flat color*** аднатóнны кóлер. 7. Mus. бэмóльны, мінóрны

– n. 1. рóўнядзь, раўні́на *f.* ; нізі́на *f.*, вóдмель *f.*; балóта *n.* 2. вялі́кая пласкадóнная лóдка. 3. зáднік -а *m.* (*сцэ́ны*). 4. Mus. бэмóль -я *m.* 5. дýрань -ня *m.*, дурні́ца -ы *m. & f.*

– adv. 1. Mus. на паўтóна ніжэ́й. 2. рóўна; пляскáта; какáта, неглыбóка. 3. плáзам (*упáсьці*): ***He laid me flat on the ground*** Ён паваліў мянé плáзам на зямлю́. 4. Informal дашчэ́нту; зусі́м: ***flat broke*** без грашá. 5. Finance без працэ́нту. 6. катэгары́чна (*пярэ́чыць*)

– v.t. 1. сплю́шчваць (*рабі́ць пляскáтым*), плю́шчыць. 2. Mus. паніжáць нóту на паўтóна

– v.i. 1. сплю́шчвацца. 2. ападáць. 3. не ўдавáцца; завáльвацца, правáльвацца

**flat II** [flæt] Brit. памéшканьне *n.*, гаспóда *f.*; кватэ́ра (*на адны́м павéрсе*)

**flatcar** [ˈflætkɑːr] n. вагóн-плятфóрма

**flatfoot** [ˈflætfʊt] n., pl. **-feet** 1. пляскáтая ступня́. 2. Sl. паліцыя́нт -а *m.*

**flat-footed** [ˌflætˈfʊtəd] adj. 1. з пляскáтай ступнёй. 2. Informal катэгары́чны; бескампрамíсны

**flat-headed** [ˈflæthedɪd] adj. пляскáтагалóвы

**flat-nosed** [ˈflætnoʊzd] adj. пляскáтанóсы

**flatten** [ˈflætən] v. 1. сплю́шчвац|ь (-ца), рабíцца пляскáтым, плю́шчыць. 2. спыня́цца, сунімáцца (*пра вéцер*). 3. распрасóўваць, распрóстваць. 4. развóдзіць (*фáрбу, éжу, вінó*)

**flatter** [ˈflætər] – v.t. 1. хвалíць, расхвáльваць (*няшчы́ра*). 2. паддóбрывацца. 3. цéшыць, лáшчыць; быць прыéмным, лéсьціць
– v.i. лісьлíвіць; дагаджáць; падлíзвацца; прыхарóшваць: ***This picture flatters her*** Гэ́ты здымак прыхарóшвае яé
• ***flatter oneself*** 1. а) угавóрваць сябé. б) зашмáт пра сябé дýмаць; пераацэ́ньваць сябé. в) выхваля́ць сябé

**flatterer** [ˈflætərər] n. лісьлíвец -ўца *m.*, лісьлíўка *f.*; падлíзьнік -а *m.*, падлíзьніца *f.*

**flattering** [ˈflætərɪŋ] adj. 1. лісьлíвы, падлíзьлівы. 2. пахвáльны

**flatteringly** [ˈflætərɪŋli] adv. 1. лісьлíва. 2. пахвáльна, дóбра, прыéмна (*вы́казацца*)

**flattery** [ˈflætəri] n. 1. лісьлíвасьць, падлíзваньне; лісьлíвыя слóвы. 2. пахвалá

**flatware** [ˈflætwer] n. 1. сталóвы прыбóр (*нож, відэ́лец, лы́жка*). 2. плы́ткі пóсуд (*талéркі, спóдкі, блю́ды*)

**flatways** [ˈflætweɪz] adv. плóска; плáзам, ніц, нíцма (*упáсьці, лéгчы*)

**flatwise** [ˈflætwaɪz] adv. *гл.* **flatways**

**flaunt** [flɔ:nt] – v. 1. выхваля́цца *чым*; выстаўля́ць напакáз (*багáцьце*). 2. казыры́цца. 3. вéлічна разьвявáцца, лунáць (*пра сьцяг*)
– n. выхваля́ньне, казырáньне *n.*

**flavor**, Brit. **flavour** [ˈfleɪvər] – n. 1. смак -у *m.* 2. прыпрáва *f.*, пры́смак -у *m.* 3. пры́смак -у *m.*, адцéньне: ***a flavor of romance*** прысмáк рамáну 4. пах -у *m.*, спэцыфíчны пах
– v.t. 1. прыпраўля́ць (*стрáву*). 2. надавáць пры́смак *абó* цікáвасьць да *чагó*

**flavorful**, Brit. **flavourful** [ˈfleɪvərfʊl] adj. з прыéмным смáкам *абó* пáхам; смакавíты, пáхкі, пахýчы

**flavoring**, Brit. **flavouring** [ˈfleɪvərɪŋ] n. прыпрáва *f.*, прысмáкі

**flavorless**, Brit. **flavourless** [ˈfleɪvərləs] adj. бяз смáку *абó* пáху

**flaw I** [flɔ:] – n. 1. шчарбíна *f.*, брак -у *m.* (*у тавáры*). 2. загáна *f.*, недахóп -у *m.* (*у харáктары*). 3. недагля́д -у *m.* , хíба *f.* (*у дакумэ́нце*)
– v.t. шкóдзіць, псавáць, раскóлваць, вышчарбля́ць
– v.i. трэ́скацца, раскóлвацца

**flaw II** [flɔ:] n. раптóўны пóшуг вéтру, раптóўная навальнíца зь лíўнем, шквал -у *m.*

**flax** [flæks] n. 1. лён, ільнý *абó* лёну *m.* 2. валакнó лёну

**flax comb** шчóтка для часáньня лёну, ільночасáлка *f.*

**flaxen** [ˈflæksən] adj. 1. ільняны́, льняны́, зь лёну. 2. які́ кóлерам і мя́ккасьцю нагáдвае валакнó лёну; бяля́вы, бляндзы́ністы: ***flaxen hair*** льняны́я, бяля́выя валасы́

**flaxseed** [ˈflækssi:d] n. льнянóе сéмя

**flaxy** [ˈflæksi] adj. *гл.* **flaxen**

**flay** [fleɪ] v.t. 1. абдзірáць, калéчыць скýру: ***with a back flayed*** з абдзéртымі плячы́ма (*ад пабóяў*). 2. сурóва, мóцна гáніць; бязьлíтасна, няшчáдна крытыкавáць. 3. абабірáць; грáбіць, зьдзірáць; ашýкваць

**flea** [fli:] n. блыхá *f.*, *pl.* блóхі

**fleck** [flek] – n. 1. пля́ма, пля́мка *f.* (*фáрбы, сьвятлá*). 2. лáпік -а *m.*, крáпінка, драбíнка, часьцíнка *f.* (*пы́лу, пяскý*): ***a fleck of dust*** пылíнка; ***flecks of sunlight*** вóдблíскі сóнца, сóнечныя блíскі
– v.t. усéйваць крáпкамі (*фáрбы, сьвятлá*); пярэ́сьціць, сьпярэ́шчваць

**flecked** [flekt] adj. усéяны плямкамі (*фáрбы, сьвятлá*), сьпярэ́шчаны

**flection** [ˈflekʃən] n. 1. згінáньне *n.*, згіб, згін -у *m.* 2. Gram. зьмéна фóрмаў слóваў (*па склóнах, лíках, асóбах*)

**flectional** [ˈflekʃənəl] adj. флектыўны (*мóва*)

**fled** [fled] v., *p.t. and p.p. of* **flee**

**flee** [fli:] – v., **fled**, **fleeing**, v.i. 1. уцякáць. 2. шукáць ратýнку. 3. хýтка ляцéць, нéсьціся. 4. прахóдзіць, пралятáць: ***life had fled*** жыцьцё праляцéла; хýтка мінáць; спынáцца; зьнікáць
– v.t. пазьбягáць, ухіляцца

**fleece** [fli:s] – n. 1. шэ́рсьць, поўсьць *f.*, рунó авéчкі, авéчая вóўна: ***golden fleece*** залатóе рунó. 2. кóлькасьць вóўны, настрыг з аднаé авéчкі. 3. мякі (*шаўкавíсты*) ворс, начóс -у *m.*, тканíна з такíм вóрсам
– v.t. 1. стрыгчы (*авéчку*). 2. Informal абдзірáць, рабавáць, ашýкваць. 3. абрастáць вóўнай

**fleecy** [ˈfli:si] adj. 1. як вóўна, пушысты, кучарáвы: ***fleecy clouds*** кучарáвыя аблóкі. 2. ваўнíсты, варсíсты (*пра суќнó*). 3. ваўняны: ***fleecy underwear*** ваўняная нацéльная бялíзна

**fleet I** [fli:t] n. 1. флёт -у *m.* 2. флятылія *f.* (*караблёў, самалётаў абó áўтаў*)

**fleet II** [fli:t] – adj. 1. хýткі, бóрзды, шпáркі (*конь*). 2. Poet. мінýчы, недаўгавéчны, хуткаплынны (*час*), мімалётны
– v.i. хýтка мінáць, хýтка рýхацца

**fleeting** [ˈfli:tɪŋ] adj. 1. мімалётны, мінýчы, недаўгавéчны, нетрывáлы: ***the fleeting beauty of youth*** мінýчая красá маладóсьці; ***a fleeting smile*** мімалётная ўсьмéшка

**flesh** [fleʃ] n. 1. плоць *f.*, цéла *n.* 2. (*сырóе*) мяса *n.*: ***Wolves live on flesh*** Ваўкí жывяцца мясам; ***Neither fish, flesh, nor fowl*** Ні рыба, ні мяса. 3. сытасьць, таўшчыня *f.*: ***He has lost flesh*** Ён схуднéў; ***in flesh*** у цéле, сыты, тóўсты. 4. фізычная натýра чалавéка (*не духóўная*). 5. жывыя істóты: ***all flesh*** усё жывóе, усé жывыя істóты. 6. род чалавéчы, чалавéцтва *n.* 7. сям'я, радня *f.*, рóдныя *pl.* 8. цялéсны кóлер. 9. мякаць пладóў, клýбняў (*яблыка, ягады, бýльбіны*)
• ***in the flesh*** а) жывы. б) у цялéснай фóрме, у асóбе, асабíста: ***He has never been seen in the flesh*** Нікóлі ягó ў вóчы ніхтó ня бáчыў

**flesh and blood** 1. плоць і кроў чалавéка. 2. чалавéчая натýра. 3. Informal чалавéк -а *m.*, людзі *pl.*; чалавéцтва *n.*
• ***one's own flesh and blood*** сям'я, радня, дзéці

**flesh-colored** [ˈfleʃˌkʌlərd] adj. цялéснага кóлеру

**flesh-eating** [ˈfleʃˌi:tɪŋ] adj. драпéжны, мясаéдны

**fleshiness** [ˈfleʃɪnəs] n. 1. сытасьць, таўшчыня, паўнатá *f.* 2. мясíстасьць *f.* (*плóда, чалавéка, нóса*)

**fleshliness** [ˈfleʃlɪnəs] n. 1. цялéснасьць *f.* 2. юрлíвасьць *f.*; пáлкасьць *f.*

**fleshly** [ˈfleʃli] adj. 1. цялéсны. 2. фізычны; юрлíвы. 3. дачáсны; сьмярóтны; чалавéчы. 4. сьвéцкі. 5. Obsol. сыты, таўсты, тóўсты

**flesh wound** дрáпіна *f.*, лёгкая неглыбóкая рáна

**fleshy** [ˈfleʃi] adj. 1. сыты; тóўсты. 2. мясíсты (*плод, чалавéк, нос*), сакаўны: ***a fleshy peach*** мясíсты, сакаўны пэ́рсік

**flew** [flu:] v., *p.t. of* **fly**

**flex** [fleks] – v.t. 1. згінáць, гнуць. 2. сьціскáць: ***to flex one's muscle*** напрýжваць і расслабляць мýскулы
– v.i. гнýцца, згінáцца
– n. гнýткасьць *f.*

**flexibility** [ˌfleksəˈbɪləti] n. гнýткасьць, падáтлівасьць *f.*

**flexible** [ˈfleksəbəl] adj. 1. гнýткі (*скýра, дрот*), гíбкі (*гóлас*). 2. падаўкí, падáтлівы; паварóтлівы (*дзялóк, палíтык*)

**flexion** [ˈflekʃən] n. 1. згінáньне *n.* (*рукí, нагí*) 2. згін -у *m.* (*мéсца згíну*), лакцявы згін

**flexor** [ˈfleksər] n. му́скул, які́ згіна́е ча́стку це́ла

**flick** [flɪk] – n. 1. лёгкі рапто́ўны ўда́р. 2. пстрык -у *m.* (*гук*)
– v.t. 1. лёгка ўдара́ць; сьцяба́ць, хваста́ць. 2. зма́хваць (*пыл*)
– v.i. ху́тка ру́хацца, насі́цца

**flicker** [ˈflɪkər] – v.i. 1. мігце́ць; міга́ць, мігаце́ць (*пра зо́ркі, слабо́е по́лымя*). 2. лапата́ць, біць кры́ламі (*пра пту́шку*)
– n. 1. мігатлі́вае, трапятко́е сьвятло́ *або́* по́лымя. 2. про́бліск -у *m.*, і́скра *f.* (*надзе́і, ра́дасьці*). 3. мірга́ньне *n.* (*ве́йкамі, вачы́ма*)

**flickers,** Sl. кінафі́льм -у *m.*; кіно́ *n.*

**flier** [ˈflaɪr] n. 1. лятý́н -а́ *m.*: ***That eagle is a high flier*** Той аро́л высо́ка лётае. 2. пілёт -а *m.* 3. ху́ткі цягні́к, аўто́бус; экспрэ́с -а *m.* 4. Informal рызыко́ўнае прадпрые́мства, авантýра *f.* 5. Tech. махаві́к -а́ *m.*

**flight** [flaɪt] – n. 1. лёт, палёт -у *m.* 2. адле́гласьць палёту. 3. чарада́ пту́шак; град (*стрэ́лаў, ку́ляў*). 4. рэйс самалёта. 5. ху́ткі рух (*ча́су, хма́раў*). 6. чарада́ схо́даў; пралёт, марш -а *m.* 7. луна́ньне *n.*, узьлёт -у *m.*: ***a flight of fancy*** узьлёт фанта́зіі. 8. чарада́ шлю́заў (*на кана́ле*)
– v.i. 1. лётаць чарадо́ю: ***The wild geese are flighting*** Дзі́кія гу́сі лётаюць чаро́дамі. 2. Obsol. пералята́ць (*на зіму́*)
– v.t. страля́ць у пту́шку ў лёце

**flight II** [flaɪt] n. 1. уцёкі *pl. only.* 2. хава́ньне ад правасу́дзьдзя, та́йныя ўцёкі: ***to put to flight*** змýсіць уцяка́ць

**flighty** [ˈflaɪti] adj. 1. няста́лы; ве́траны; капры́зны; лёгкаду́мны, пусты́, несур'ёзны. 2. прыдуркава́ты. 3. пудлі́вы (*пра каня́*). 4. мімалётны, недаўгаве́чны

**flimflam** [ˈflɪmflæm] n. 1. глу́пства *n.*, лухта́ *f.* 2. махля́рства *n.*

**flimsy** [ˈflɪmzi] – adj. 1. то́нкі, рэ́дкі, нямо́цны. 2. непава́жны, малава́жны, трывія́льны: ***a flimsy excuse*** адгаво́рка; несур'ёзнае апраўда́ньне
– n. 1. папяро́сная *або́* то́нкая папе́ра (*для ко́піяў*). 2. Sl. грашо́вы банкно́т

**flinch** [flɪntʃ] – v.i. 1. ску́рчвацца; уздры́гваць; мо́ршчыцца (*ад бо́лю*). 2. ухіля́цца, адмаўля́цца (*ад ця́жкасьцяў, абавя́зку*)
– v.t. адступа́цца ад *чаго́*

**fling** [flɪŋ] – v.t. **flung** 1. кі́даць; шпурля́ць: ***to fling someone into jail*** кі́нуць каго́ ў турму́; ***to fling fresh troops into a battle*** кі́нуць сьве́жыя аддзе́лы ў бой; ***to fling a stone*** шпурну́ць ка́мень. 2. пазіра́ць з пага́рдай, кіда́ць пага́рдлівы по́зірк. 3. а) кі́даць аб зямлю́, валі́ць; скіда́ць: ***the horse flung his rider*** конь скі́нуў ездака́. б) (out) брыка́ць. 4. кіда́ць (*цень*), напаўняць, по́ўніць (*па́хам, гу́камі*): ***The flowers fling their fragrance around*** Кве́ткі напаўня́юць паве́тра па́хам. 5. уклада́ць, аддава́ць: ***To fling all energies*** аддава́ць усе́ сі́лы, акуну́цца з галаво́ю (*у пра́цу*)
– v.i. 1. кі́дацца, выбяга́ць, выско́кваць: ***She flung out of the room*** Яна́ вы́бегла з пако́ю. 2. пачына́ць сва́рыцца, ла́яцца
– n. 1. кід|о́к -ка́ *m.*, по́швыр|ак -ка *m.* 2. гуля́ньне *n.*, прые́мнае ба́ўленьне ча́су: ***to have one's fling*** нагуля́цца, прые́мна паба́віцца; ***to have a fling with someone*** мець рама́н з *кім.* 3. зьнява́жлівая заўва́га; кры́тычныя напа́дкі; ***to have a fling at*** а) паспрабава́ць рабі́ць. б) пага́рдліва *або́* зьнява́жліва выка́звацца

**flint** [flɪnt] n. 1. крэ́мен|ь -ю *m.*, краме́нчык -а *m., dim.* 2. крэ́сіва *n.* 3. не́шта цьвёрдае, як ка́мень: ***a heart of flint*** каме́ннае сэ́рца

**flint glass** крышта́льнае шкло

**flint-hearted** [ˈflɪntˌhɑːrtəd] adj. бязду́шны; лю́ты; з каме́нным сэ́рцам

**flinty** [ˈflɪnti] adj. 1. крамянёвы. 2. цьвёрды, як крэ́мень; непадаўкі́, заця́ты

**flip** [flɪp] v. (**-pp-**) 1. пстрыкаць. 2. падкідáць: ***He flipped a coin*** Ён падкінуў манэту. 3. лёгка сьцебанýць, хвастанýць, змахнýць

**flippancy** [ˈflɪpənsi] n., pl. **-cies** 1. легкадýмнасьць *f.*; непачцівасьць *f.* 2. дзёрзкасьць *f.*

**flippant** [ˈflɪpənt] adj. 1. адвáжны, нахáбны (*у гýтарцы, у трымáньні*). 2. непачцівы, грубіянскі

**flipper** [ˈflɪpər] n. 1. плаўнíк -á, ласт -а *m.* (*як у фóкаў*). 2. ласт -а *m.* (*у вадалáзаў*)

**flirt** [flɜːrt] – v.i. 1. фліртавáць, заляцáцца. 2. забаўлягцца; непавáжна стáвіцца да *чагó*

– v.t. махáць (*вéерам*), круцíць у рукáх

– n. какéтка *f.*, залётнік -а *m.*, ахвóтнік пафліртавáць

**flirtation** [flɜːrˈteɪʃən] n. 1. заляцáньне *f.*, флірт -у *m.* 2. фліртавáньне *n.*, забаўлянне (*нéйкай дýмкай*)

**float** [floʊt] – v.i. 1. трымáцца на павéрхні вады́ *абó* ў павéтры; плáваць, плы́сьці; усплывáць: ***Ice floats on water*** Лёд плáвае на вадзé. 2. плы́сьці з вадóю, быць нéсеным плы́ньню. 3. пранóсіцца (*перад вачы́ма абó ў дýмках*). 4. пашырáцца, распаўсю́джвацца, разнóсіцца: ***The rumor floated through the town*** Чýтка разнóсілася па гóрадзе

– v.t. 1. спускáць на вадý (*вадаплáў*), здымáць зь мéлі, мялíзны. 2. затаплягць, залівáць. 3. сплаўлягць (*лес*). 4. пускáць у ход гандлёвае прадпрыéмства. 5. пускáць на ры́нак, прадавáць (*áкцыі*). 6. распаўсю́джваць (*чýтку*)

– n. 1. плыт -á *m.*, парóм -а *m.*, выратавáльная кýртка, выратавáльны пóяс *абó* кóла. 2. плавýн -á *m.*, плаǀвóк -ўкá *m.* (*на лёсцы ў вýдзе*). 3. плáвальны пузы́р (*у ры́бы і іншых вадзяны́х жывёлінаў*). 4. нíзкі фургóн, ужывáны ў парáдах

• ***floats*** рáмпа *f.* (*у тэáтры*).

**floatable** [ˈfloʊtəbəl] adj. 1. плывýчы (*здóльны трымáцца на павéрхні вады́*). 2. сплаўны́ (*пра ракý*)

**floating** [ˈfloʊtɪŋ] adj. плáваючы; плывýчы, плы́ўкі

**floating bridge** плывýчы мост, пантон -а *m.*

**floating capital** абарóтны капітáл

**floating kidney** блукáючая ны́рка

**flock I** [flɑːk] – n. 1. чарадá (*птýшак, авéчак, кóзаў*): ***a flock of geese*** чарадá гусéй: ***flocks and herds*** авéчкі й рагáтая жывёла. 2. грýпа, гурт, натóўп: ***to come in flocks*** прыхóдзіць гýртам, натóўпам, грýпамі. 3. парафіяне аднаé царквы́, пáства *f.*

– v.i. зьбірáцца; зьбівáцца (*у кýчу*), тóўпіцца: ***The children flocked around the Christmas tree*** Дзéці тóўпіліся вакóл ялíнкі

**flock II** [flɑːk] – n. 1. касмы́к -á *m.*, касмычǀóк -кá *m.*, dim. (*вóўны, бавóўны*); пучǀóк -кá *m.*; пáсма *f.* (*валасóў*). 2. пáчаскі *pl. only*, пáчасьсе (*лёну, вóўны, бавóўны*)

– v.t. набівáць, напíхваць пáчаскамі (*матрáс, падýшку*)

**floe** [floʊ] n. кры́га *f.*

**flog** [flɑːg] v.t. (**-gg-**) 1. мóцна лупцавáць (*кíем*), сьцябáць (*пýгаю, кíем*), падсьцёбваць (*каня́ пýгаю*). 2. Brit., Sl. несумлéнна прадавáць (*асабл. крáдзенае*)

**flogging** [flɑːgɪŋ] n. цялéсная кáра; лупцóўка *f.*

**flood** [flʌd] – n. 1. павóдка *f.*, развóдзьдзе *n.* 2. Poet. акія́н -у *m.*, мóра, вóзера *n.*, ракá *f.* 3. патóк -у *m.* (*сьвятлá, слóваў, людзéй*), мóра *n.*: ***flood of tears*** мóра сьлёз. 4. прыплы́ǀў -ву *m.*

– v.t. 1. залівáць; затапля́ць. 2. закідáць *кагó* (*пытáньнямі, прóсьбамі*)

– v.i. улівáцца

• ***the Flood*** Сусьвéтны патоп

**floodgate** [ˈflʌdgeɪt] n. шлюз -а *m.*

**flood lands** or **flood plains** паплавы́ *pl.*

**floodlight** [ˈflʌdlaɪt] n. пражэ́ктар -а *m.*, пражэ́ктарнае асьвятлéньне

**floor** [flɔ:r] – n. 1. падлóга *f.* 2. павéрх -у *m.*: ***ground floor*** ніжні, пéршы павéрх, партэ́р -у *m.* 3. дно *n.* (*мóра, пячóры*). 4. зáля пасéджаньняў: ***to have, to take the floor*** выступáць (*на пасéджаньні*), брáць слóва
– v.i. 1. клáсьці падлóгу 2. валíць на падлóгу, зьбівáць з ног. 3. Informal а) перамагáць. б) зьбівáць з панталы́ку, стáвіць у тупíк

**flooring** [ˈflɔ:rɪŋ] n. 1. падлóга *f.* 2. матэрыя́л на падлóгі (*паркéт, лінóлеўм*)

**flora** [ˈflɔ:rə] n., pl. **-ras, -rae** флёра *f.* (*расьлíнны сьвет*)

**floral** [ˈflɔ:rəl] adj. 1. з квéтак, квéтачны (*адэкалён*): ***floral decorations*** дэкарáцыі з квéтак. 2. квяцíсты, у квéткі: ***floral patterns*** квяцíстыя ўзóры, з узóрам у квéткі

**florescence** [flɔ:ˈresəns] n. 1. флюарэсцэ́нцыя *f.* 2. квітнéньне, цьвіцéньне, красавáньне (*збóжжа*) *n.* 3. час квітнéньня, красавáньня; рóсквіт -у *m.* 4. квéткі *pl. of* квéтка *f.*, квéцень *f.*

**florescent** [flɔ:ˈresənt] adj. квітнéючы, якí цьвіцé, квітнée, красýе

**florid** [ˈflɔ:rɪd] adj. 1. румя́ны, чырвóны; шматкóлерны: ***a florid complexion*** расчырванéлы твар. 2. квяцісты, напы́шлівы (*стыль*)

**florist** [ˈflɔ:rɪst] n. 1. кветкавóд. 2. гандля́р квéткамі

**floss** [flɔ:s] n. 1. шаўкóвае валакнó. 2. шаўкóвыя нíткі (*каб вышывáць абó чы́сьціць між зубáмі*). 3. шаўкавíстыя валасы́ на катахý кукурýзы

**flounder I** [ˈflaʊndər] – v.i. 1. валтýзіцца, бóрсацца (*у сьнéзе, балóце*); брысьцí: ***to flounder in the deep snow drifts*** брысьцí праз высóкія гýрбы сьнéгу. 2. блы́тацца, рабíць памы́лкі (*у сьпéве, прамóве*)
– n. валтузьня́ *f.*, валтýжаньне, бóрсаньне *n.*

**flounder II** [ˈflaʊndər] n., pl. **-ders** or coll. **flounder** кáмбала *f.*

**flour** [ˈflaʊr] – n. 1. мукá *f.* 2. парашlóк -кý *m.*
– v.t. 1. пасыпáць мукóю, качáць у муцэ́ (*ры́бу, мя́са*). 2. малóць на мукý

**flour bolt** прасéйвальная машы́на *абó* падсíтак, сíта для прасéйваньня мукí

**flourish** [ˈflɜ:rɪʃ] – v.i. 1. квітнéць, пы́шна расьцí (*пра расьлíну*); дóбра разрастáцца, мóцна разьвівáцца; дóбра мéцца. 2. быць у рóсквіце (*жыцьця́ абó дзéйнасьці*)
– v.t. 1. махáць, размáхваць *чым*. 2. выстаўля́ць напакáз, выхваля́цца.
– n. 1. рóсквіт -у *m.*: ***in full flourish*** у пóўным рóсквіце (*жыцьця́*). 2. размáхваньне *n.*, рóсчырк -у *m.* (*пярá*), завітlóк -кá *m.*, завітýшка *f.* (*з валасóў*). 3. квяцíсты стыль *абó* вы́раз

**flourishing** [ˈflɜ:rɪʃɪŋ] adj. здарóвы; квітнéючы, пы́шны, бліскýчы: ***a flourishing garden*** пы́шна разрóслы гарóд; ***a flourishing career*** бліскýчая кар'éра

**flout** [flaʊt] – v.t. 1. пагарджáць; не прымáць пад увáгу: ***The foolish boy flouted his mother's advice*** Неразýмны хлапéц ня прыня́ў пад увáгу парáду свaé мáці. 2. высьмéйваць, абсьмéйваць
– v.i. кпіць, насьміхáцца
– n. зьнявáга *f.*; кпíны *pl.*, насьмéшкі *pl.*, насьміхáньні *pl.*

**flow** [floʊ] – v.i. 1. цячы́, струмéніцца; лíцца; плы́сьці (*пра ракý*): ***to flow through*** праплывáць; ***to flow into*** уплывáць, уцякáць, улівáцца (*пра ракý*). 2. лёгка спадáць, сплывáць (*пра валасы́, вóпратку*). 3. быць багáтым *абó* пóўным праз верх. 4. прыбывáць; падымáцца (*пра прыплы́ў*)
– v.t. ліць; залівáць, затапля́ць
– n. 1. плынь *f.* (*ракí*), цячэ́ньне *n.*: ***flow of blood*** крывацёк -у *m.* 2. патóк -у *m.* (*і сьлёзаў, слóваў*); струмéнlь -я *m.*, ручálй -я́ *m.* 3. прыплы́lў, прылílў -ву *m.* (*мóра*). 4. павóдка *f.*, разьлílў -ву *m.*: ***the flows of the Nile*** разьлíвы Нíлу

**flower** [ˈflaʊr] – n. 1. крáска, крáсачка *f.*, *dim.*; квéтка, квéтачка *f.*, *dim.*; квéт-

кавая расьліна. 2. краса́ f., цьвет -у m. (*найле́пшая ча́стка*). 3. ро́сквіт -у m.: ***in the flower of life*** у ро́сквіце жыцьця́

– v.i. цьвісьці́, красава́ць; квітне́ць. 2. быць у ро́сквіце (*у найле́пшым ста́не*)

– v.t. прыбіра́ць, аздабля́ць кве́ткамі

– adj. кве́ткавы: ***flower seeds*** кве́ткавае насе́ньне

• ***flower bed*** клю́мба

• ***in flower*** квітне́ючы, цьвіту́чы, які́ цьвіце́

**flower girl** 1. мала́я дзяўчы́нка ў вясе́льным карто́жы. 2. кве́тачніца, гандля́рка кве́ткамі

**flowering** [ˈflaʊərɪŋ] – adj. квітне́ючы, квіту́чы, які́ цьвіце́

– n. 1. цьвіце́ньне, красава́ньне n. (*збо́жжа*), дасьпява́ньне n.

**flowerpot** [ˈflaʊrpɑ:t] n. вазо́н -а m.

**flower show** выста́ва кве́так

**flowery** [ˈflaʊri] adj. 1. усы́паны кве́ткамі. 2. квяці́сты (*стыль, мо́ва*). 3. квяці́сты, у кве́ткі (*ткані́на*)

**flowing** [ˈfloʊɪŋ] adj. 1. цяку́чы. 2. пла́ўны (*рух*). 3. лёгкаспа́дны (*пра во́пратку*)

**flu** [flu:] n., Informal грып -у m., інфлюэ́нца f.

**fluctuate** [ˈflʌktʃueɪt] – v.i. 1. падыма́цца й апада́ць, быць няста́лым, мяня́цца, ваға́цца (*пра цэ́ны, тэмпэрату́ру*). 2. хваліва́цца (*пра ваду́*)

– v.t. выкліка́ць хва́лі

**flue I** [flu:] n. 1. ю́шка f., дымахо́д -у m. 2. цеплаправо́д -у m. 3. труба́ ў арга́не

**flue II** [flu:] n. пух -у m., пуш|о́к -ка́ m.; камякі́, кло́кі пы́лу пад мэ́бляй

**fluency** [ˈflu:ənsi] n. бе́гласьць f. (*у мо́ве*); пла́ўнасьць f. (*у та́нцы*)

**fluent** [ˈflu:ənt] adj. 1. бе́глы (*чыта́ньне, мо́ва*), дастатко́ва свабо́дны. 2. які́ ху́тка, лёгка гаво́рыць або́ пі́ша. 3. няста́лы; ва́дкі, цяку́чы

**fluff** [flʌf] n. 1. пух -у m., пуш|о́к -ка́ m., пушы́сты ворс (*на ткані́не*): ***bit of fluff*** пушы́нка f. 2. Sl. памы́лка ў чыта́ньні ў ра́дыё *або́* на сцэ́не

**fluffy** [ˈflʌfi] adj. пушы́сты; пу́хкі (*це́ста*); мя́ккі, мя́кенькі, як пух

**fluid** [ˈflu:ɪd] – adj. 1. цяку́чы, ва́дкі. 2. няста́лы, зьме́нны

– n. ва́дкасьць f. *або́* газ -у m.

**fluke I** [flu:k] – n. шчасьлі́вы вы́падак, ша́н|ец -цу m.

– v.t. атры́мваць выпадко́ва

**fluke II** [flu:k] n. 1. ка́мбала f. (*ры́ба*). 2. трэмато́да (*пара́зыт жывёлы*)

**flung** [flʌŋ] v., *p.t. and p.p. of* **fling**

**flunk** [flʌŋk] – v.t., Informal 1. правалі́ць, ня здаць экза́мэн. 2. правалі́ць, паста́віць незадавальня́ючую адзна́ку

– v.i. 1. правалі́цца на экза́мэне, ня здаць экза́мэн. 2. зда́цца, адступі́ць; адмо́віцца

– n. права́л -у m., няўда́ча f.

• ***flunk out,*** Informal пакі́нуць шко́лу; быць вы́ключаным са шко́лы

**fluorescence** [flɔ:ˈresəns] n. сьве́цень, флюарэсцэ́нцыя f.

**fluorescent** [flɔ:ˈresənt] adj. флюарэсцэ́нтны: ***fluorescent lamp*** флюарэсцэ́нтная ля́мпа

**flurry** [ˈflɜ:ri] – n., pl. **-ries** 1. пары́|ў -ву, по́шуг -у m. (*ве́тру*), віхо́р, ві́х|ар -ру m.: ***A flurry of wind upset the small sailboat*** Віхо́р абярну́ў малы́ ве́тразьнік. 2. заве́я f.; пары́вісты дождж: ***flurries of snow*** завіру́ха f. 3. нэрво́вы сьпех; хваліва́ньне n.; мітусьня́, сумятня́ f.

– v.t. хваліва́ць, узбура́ць: ***Noise in the audience flurried the actor so that he forgot his lines*** Шум у за́лі так усхвалява́ў акто́ра, што ён забы́ўся свае́ сло́вы

**flush I** [flʌʃ] – v.i. 1. чырване́ць: ***The girl flushed when they laughed at her*** Дзяўчы́на пачырване́ла, калі́ зь яе́ сьмя́яліся; ***Blood flushed to her cheeks*** Чы́рвань уда́рыла ёй у шчо́кі. 2. пуска́ць па́расткі (*пра расьлі́ну*)

– v.t. 1. а) змыва́ць струме́нем вады́ (*ву́ліцы*). б) спушча́ць ваду́: ***to flush the toilet*** спусьці́ць ваду́ ў прыбі-

ра́льні. в) ачышча́ць стра́ўнік (*пасьля́ атру́чаньня*). 2. напаўня́ць, перапаўня́ць (*ра́дасьцю, го́нарам*); захапля́ць: ***flushed with joy*** перапо́ўнены ра́дасьцю

– n. 1. румя́нlец -ца *m.*, чы́рвань *f.* (*на тва́ры*). 2. струме́нlь -я *m.* 3. прылі́ў (*пачуцьця́*), захапле́ньне *n.*, узбу́джанасьць -і *f.*: ***in the flush of victory*** у ра́дасным узды́ме перамо́гі. 4. бу́йны рост (*травы́ вясно́ю*). 5. ду́жасьць, бадзёрасьць *f.*: ***the first flush of youth*** пе́ршы ро́сквіт маладо́сьці. 6. прысту́п гарачыні́, гара́чкі; прылі́ў (*крыві́*)

**flush II** [flʌʃ] – adj. 1. ро́ўны, на тым са́мым узро́ўні. 2. до́бра забясьпе́чаны, замо́жны. 3. шмат, у вялі́кай ко́лькасьці. 4. шчо́дры; лібэра́льны. 5. румя́ны; по́ўны сі́лаў, здаро́ўя. 6. по́ўны да ве́рху

– adv. 1. ро́ўна. 2. про́ста: ***He hit him flush on the nose*** Ён уда́рыў яго́ про́ста ў нос

**flush III** [flʌʃ] – v.i. узьлята́ць; успы́рхваць (*пра пту́шку*)

– v.t. 1. спу́джваць: ***The hunter's dog flushed a partridge*** Саба́ка паляўні́чага ўспу́дзіў курапа́тку. 2. Informal прымуша́ць вы́йсьці са схо́ванкі; лаві́ць уцекачо́ў

– n. 1. успу́джваньне *n.* 2. спу́джаная пту́шка *або́* чарада́ пту́шак

**flush IV** [flʌʃ] n. ка́рты аднае́ ма́сьці, ко́лер -у *m.*

**fluster** [ˈflʌstər] – v.t. хвалява́ць; бянтэ́жыць, нэрвава́ць

– v.i. хвалява́цца, бянтэ́жыцца, нэрвава́цца

– n. узбу́джанасьць, усхвалява́насьць *f.*

**flute** [flu:t] – n. 1. фле́йта *f.* 2. Arch. жалабlо́к -ка́, раlво́к -ўка́ *m.*, паз -у *m.*, вы́емка *f.* 3. малы́я, ву́зкія скла́дачкі

– v.i. 1. іграць на фле́йце. 2. выраза́ць жалабкі́ (*на калёне*). 3. запрасо́ўваць скла́дкі

**flutter** [ˈflʌtər] – v.i. 1. лапата́ць (*кры́ламі*); трапята́ць: ***the flag fluttered in the breeze*** сьцяг лапата́ў на ве́тры. 2. дрыжа́ць, трэ́сьціся: ***Her hands fluttered*** У яе́ трэ́сьліся ру́кі. 3. бі́цца няро́ўна, нерэгуля́рна: ***Her pulse fluttered*** Пульс у яе́ быў няро́ўны

– n. 1. лапата́ньне *n.* 2. неспако́lй -ю *m.* хвалява́ньне *n.*

**flux** [flʌks] – n. 1. цячэ́ньне *n.* 2. прыплы́lў -ву *m.* (*мо́ра*). 3. безупы́нныя зьме́ны: ***in a state of flux*** у ста́не безупы́нных зьме́наў. 4. Med. паталягі́чнае сплыва́ньне (*крыві́*). 5. Metallurgy пла́lвень -ўня *m.*, флюс -у *m.*

– v.t. выклі́каць сплыва́ньне (*крыві́*); ачышча́ць, прачышча́ць

– v.i. 1. сплаўля́цца. 2. выплыва́ць, выцяка́ць, плы́сьці; зьмяня́цца

**fluxion** [ˈflʌkʃən] n. 1. цячэ́ньне *n.*; пато́к -у *m.* 2. выдзяле́ньне *n.* (*гно́ю з ра́ны*)

**fly I** [flaɪ] n., pl. **flies** му́ха, му́шка *f.*, *dim.*: ***a fly in the ointment*** лы́жка дзёгцю ў бо́чцы мёду

**fly II** [flaɪ] – v.i. **flew, flown, flying; flied, flying** 1. лётаць, ляце́ць: ***birds fly*** пту́шкі лётаюць. 2. разьвява́цца ў паве́тры, луна́ць (*пра сьцяг, валасы́*). 3. лётаць, ляце́ць самалётам. 4. ляце́ць; імча́цца, імкну́ць: ***time flies*** час ляці́ць. 5. уцяка́ць

– v.t. 1. пушча́ць у паве́тра: ***to fly a kite*** запуска́ць зьме́я. 2. пералята́ць. 3. кірава́ць самалётам. 4. перавo̓зіць самалётам. 5. уцяка́ць ад *каго́-чаго́*, уніка́ць *каго́-чаго́*

– n. 1. кла́пан на гу́зікі; прарэ́х -а *m.*, шыры́нка *f.* 2. адкідно́е пало́тнішча (*дзьве́ры ў намёце*). 3. даўжыня́ сьця́га. 4. палёт -у *m.*

• ***fly at*** кі́нуцца адзін на аднаго́ (*у бо́йцы*)

• ***fly away*** адлята́ць, зьлята́ць

• ***fly by (past, through)*** пралята́ць

• ***fly down*** зьлята́ць

• ***fly in the face of*** я́ўна не паслу́хацца *каго́*, не падпара́дкавацца *каму́*; не лічы́цца з *кім-чым*

• ***fly off*** раптóўна вы́йсьці; уцячы́
• ***fly out*** вы́бухнуць гнéвам, ускіпéць
• ***fly over*** пераляцéць, пераскóчыць
**fly agaric** мухамóр -а *m.* (*грыб*)
**flyblow** [ˈflaɪbloʊ] – n. мушы́нае я́йка *абó* ля́рва (*на мя́се*)
– v.t. **flyblew, -blown, -blowing** 1. клáсьці я́йкі (*пра му́ху*). 2. псавáць, загáджваць, заражáць
**flyblown** [ˈflaɪbloʊn] adj. запэ́цканы му́хамі, засéджаны му́хамі (*пра мя́са*)
**fly-by-night** [ˈflaɪbaɪˌnaɪt] adj. ненадзéйны; безадкáзны: ***fly-by-night deals*** цёмныя апэрáцыі
**flyer** [ˈflaɪər] n. 1. *гл.* **flier**. 2. Informal спрóба *f.*: ***He took a flyer at editing*** Ён паспрабавáў працавáць рэдáктарам. 3. лёгкі вéтрык
**flying** [ˈflaɪɪŋ] – adj. 1. які́ лётае. 2. лятýчы (*аблóкі*), лётны: ***flying field*** лётнае пóле 3. хýткі, бóрзды; мімалётны (*візы́т*)
– n. лётаньне *n.*
**flyleaf** [ˈflaɪli:f] n., pl. **-leaves** фóрзац (*у кні́зе*)
**flypaper** [ˈflaɪˌpeɪpər] n. папéра-ліпýчка для мух
**fly sheet** лістóўка, улётка *f.*
**flyspeck** [ˈflaɪspek] – n. 1. мушы́ны сьлед. 2. малéнечкая пля́мка
– v.t. засéджваць, пэ́цкаць (*пра мух*)
**flytrap** [ˈflaɪtræp] n. мухалóўка *f.*
**flywheel** [ˈflaɪhwi:l] n., Tech. махаві́к -á *m.*
**foal** [foʊl] – n. жарабё, жарабя́ *n.*, асьлянё, асьляня́ *n.*
• ***in*** or ***with foal*** жарэ́бная (*пра кабы́лу, асьлі́цу, вярблю́дзіцу*)
– v.t. прывóдзіць жарабя́
– v.i. жарабíцца
**foam** [foʊm] – n. 1. шум -у *m.*, шумавíньне *n.*, пéна *f.* 2. мы́ла *n.*, пéна ў кóней ад пóту. 3. губчáстая штýчная гýма
– v.t. пакрывáць пéнай
– v.i. пéніцца, пакрывáцца пéнай
**foam rubber** губчáстая, пóрыстая гýма
**foamy** [ˈfoʊmi] adj. 1. пакры́ты пéнай; усьпéнены; пéністы. 2. з губчáтае гýмы

**fob I** [fɑ:b] n. кішэ́нька для гадзі́ньніка
**fob II** [fɑ:b] – v.t. **(-bb)** (off) ашýкваць
– n. хітрасьць *f.*; нечакáная вы́хадка
**focal** [ˈfoʊkəl] adj., Phys. фóкусны
**focalize** [ˈfoʊkəlaɪz] v.t. зьбірáць прамяні́ ў фóкусе; настаўля́ць на фóкус
**focus** [ˈfoʊkəs] – n., pl. **-cuses** or **-ci** 1. Phys. фóкус -у *m.* 2. цэ́нтар -ру *m.* (*увáгі*): ***in focus*** вырáзны; ***out of focus*** невырáзны
– v.t. зьбірáць прамяні ў фóкусе; настаўля́ць на фóкус, факусавáць. 2. (on, upon) засярóджваць (*увáгу*)
**fodder** [ˈfɑ:dər] – n. фурáж -ý, корм -у *m.*, *pl.* кармы́
– v.t. давáць корм (*кóням, жывёле*)
• ***cannon fodder*** гармáтнае мя́са
**foe** [foʊ] n. вóраг -а *m.*
**fog I** [fɑ:g] – n. 1. тумáн -у *m.* , імглá *f.* 2. Phot. тумáн, вэ́люм -у *m.*, вуáль *f.*
– v.t. ахінáць, ахýтваць тумáнам
– v.i. ахінáцца тумáнам, затумáньвацца, зацягвацца тумáнам
**fog II** [fɑ:g] n. атáва *f.* (*травá*)
**foggy** [ˈfɑ:gi] adj. 1. затумáнены, тумáнны. 2. няя́сны, цьмя́ны (*дýмка*); замарóчаны (*сьвядóмасьць, галавá*), зьбянтэ́жаны
**fogy** [ˈfoʊgi] n., pl. **-gies** старамóдны, адстáлы чалавéк
**foible** [ˈfɔɪbəl] n. 1. слабóе мéсца, слáбасьць *f.* 2. гнýткі канéц мячá
**foil** [fɔɪl] – v.t. 1. разлáджваць, зрывáць (*пля́ны, намéры*); перашкаджáць; адбівáць (*атáку*); перамагáць. 3. зьбівáць з трóпу
– n. сьлед зьвярá
**foil II** [fɔɪl] – n. 1. фóльга *f.*; станіёль -ю *m.* 2. фон, які́ падкрасьля́е прыгажóсьць íншага прадмéту. 3. Arch. арнáмэнт у фóрме лістóў
– v.t. пакрывáць фóльгай (*шкло для лю́страў*)
**foil III** [fɔɪl] n. шпáга *f.*
**foist** [fɔɪst] v.t. усóўваць, упірáць, пóдступам падсóўваць
**fold I** [foʊld] – v.t. 1. складáць (*ліст папéры, рýкі*); згінáць. 2. абдымáць;

абгóртваць (*рукáмі*). 3. загóртваць; закрýчваць. 4. Informal зачыняць, спыняць (*прадпрыéмства*)
– n. 1. склáдка *f.*, згін -у *m.* (*папéры*); фáльда *f.* 2. скрýт|ак -ка *m.*: ***a fold of linen*** скрýтак палатнá. 3. малы́ ўзгóрак *абó* западзіна. 4. складáньне, згінáньне *n.*; абкрýчваньне *чым*
• ***fold in*** лёгка ўмяшáць лы́жкай (*пéну, я́йка*)
• ***fold up*** 1. складáцца. 2. Informal згóртвацца (*перастáць існавáць*)

**fold II** [fɔʊld] – n. 1. а) зáгарадзь *f.*, пастаўнíк -á *m.* (*для авéчак*). б) чарадá авéчак. 2. а) парафія́не аднаé царквы́; пáства *f.* б) царквá *f.*
– v.t. заганя́ць (*у зáгарадзь*)

**folder** [ˈfɔʊldər] n. 1. фальцóўшчык -а *m.*, фальцóўшчыца *f.*, фальцóўка *f.* (*машы́на*). 2. пáпка *f.*

**folding** [ˈfɔʊldɪŋ] adj. складáны, пахóдны; ствóркавы: ***a folding chair*** раскладнóе крэ́сла; ***folding doors*** ствóркавыя дзьвéры

**foliage** [ˈfɔʊliɪdʒ] n. 1. лíсьце *n., coll.*, лісьцё *n., coll.*, лістóта *f., sing. only.* 2. лісьцёвы арнáмэнт

**foliaged** [ˈfɔʊliɪdʒd] adj. 1. ліставы́, лісцяны́, лісьцьвяны́ (*гушчáр*). 2. упрыгóжаны лíсьцем

**foliate** [ˈfɔʊliət] – adj. 1. ліставы́, лісьцяны́ (*лес*). 2. лістападóбны
– v.i. [ˈfɔʊlieɪt] пакрывáцца лíсьцем (*пра дрэ́вы*), распускáцца. 2. расшчапля́цца на тóнкія пласты́
– v.t. 1. упрыгóжваць лісьцёвым арнамэ́нтам. 2. пакрывáць лістáмі. 3. пакрывáць мэталёвай фóльгай (*шкло*), срэ́брыць. 4. нумаравáць áркушы (*кнíгі*)

**folio** [ˈfoʊlioʊ] n., pl. **-lios** 1. фóліё *n.* 2. друкавáны áркуш у кнíзе

**folk** [foʊk] – n., pl. **folk** or **folks** 1. а) лю́дзі (*наагýл*). б) ***poor folk*** бéдныя лю́дзі; ***old folk*** стары́я; ***young folk*** мóладзь; ***my folks*** мая́ сям'я́, маé рóдныя. 2. плéмя *n.*, нарóд -у *m.*; люд -у *m.*
– adj. нарóдны: ***folk art*** нарóднае мастáцтва; ***folk dance*** нарóдны тáнец

**folklore** [ˈfoʊklɔːr] n. 1. вýсная нарóдная твóрчасьць, фальклёр -у *m.* 2. дасьлéдаваньне фальклёру

**folklorist** [ˈfoʊklɔːrɪst] n. фальклярыст -а *m.*

**folk medicine** нарóдная мэдыцы́на

**folk music** нарóдная музы́ка

**folk song** 1. нарóдная пéсьня. 2. пéсьня ў нарóдным сты́лі

**follicle** [ˈfɑːlɪkəl] n. 1. Anat. сýмка *f.*, мяшэ́ч|ак -ка *m.* 2. Bot. стручóк -кá *m.*

**follies** [ˈfɑːliːz] n. 1. *pl. of* **folly**. 2. рэвю́ *indecl.* (*тэатрáльнае абó эстрáднае прадстаўлéньне*)

**follow** [ˈfɑːloʊ] v. 1. ісьцí за *кім-чым*, надыхóдзіць; наставáць: ***Night follows day*** Ноч настаé пасьля́ дня. 2. ісьцí, хадзíць, éхаць сьлéдам; трымáцца: ***follow this road*** трымáйся гэ́тае дарóгі; ***follow me!*** за мною!; ***a concert followed the lecture*** пасьля́ лéкцыі быў канцэ́рт. 3. гнáцца. 4. сачы́ць, правóдзіць (*вачы́ма*). 5. увáжліва прыслухóўвацца й разумéць (*слóвы, прамóву*)
• ***as follows*** настýпны; настýпна
• ***follow out*** вы́канаць да канцá (*плян*)

**follower** [ˈfɑːloʊər] n. 1. настýпнік -а *m.*, настýпніца *f.* 2. пасьлядóўнік -а *m.*, пасьлядóўніца *f.* (*ідэ́і*); прыхíльнік -а *m.*, прыхíльніца *f.* (*палітычны*); аднадýм|ец -ца *m.* 3. удзéльнік пóчту; слугá -і *m. & f.* 4. Tech. вéдзены мэханíзм. 5. Informal залётнік -а *m.*

**following** [ˈfɑːloʊɪŋ] – n. 1. пасьлядóўнікі *pl.*, почт -у *m.* 2. прыхíльнікі *pl.*, аднадýмцы *pl.*; паклóньнікі *pl.*
– adj. настýпны

**folly** [ˈfɑːli] n., pl. **-lies** 1. бязглýздасьць, безразвáжнасьць *f.* 2. безразвáжны ўчы́нак, глýпства *n.* 3. дарагí капры́з

**foment** [foʊˈment] v.t. 1. падбухтóрваць (*неспакóй, хвалявáньні*). 2. рабíць, клáсьці прыпáркі

**fond** [fɑːnd] adj. 1. які́ лю́біць: ***to be fond of children*** любíць дзяцéй. 2. пяшчóтны, закахáны: ***a fond look*** пяшчóтны, закахáны пóзірк. 3. празь-

ме́рна аптымісты́чны: ***fond hopes*** беспадста́ўныя, дарэ́мныя надзе́і

**fondle** [ˈfɑ:ndəl] v. 1. пе́сьціць, лашчыць. 2. пе́сьціцца з *кім*

**fondness** [ˈfɑ:ndnəs] n. 1. схі́льнасьць, прыхі́льнасьць *f.*, сла́басьць да *чаго́*. 2. пяшчо́тнасьць, ласка́васьць; лю́басьць, закаха́насьць *f.* 3. неразу́мная сьляпа́я закаха́насьць

**food** [fu:d] n. 1. е́жа *f.*; стра́ва *f.*; харч -у *m.*, харчава́ньне *n.*; корм -у *m.* (*для жывёлы*): ***give him food and drink*** дай яму́ пад'е́сьці й папі́ць. 2. пажы́ва *f.*, пажы́т|ак -ку *m.*: ***food for the mind (thought)*** пажы́ва для ро́зуму (ро́здуму)

**foodstuff** [ˈfu:dstʌf] n. 1. праду́кт харчава́ньня. 2. элемэ́нт жыўле́ньня (*як бялок ці вуглявод*)

**fool** [fu:l] – n. 1. дурні́ц|а -ы *m. & f.*, дуры́л|а -ы *m.*, ду́р|ань -ня *m.* 2. бла́з|ан, бла́з|ен -на *m.* (*на каралеўскім дварэ́*). 3. той, каго́ ашука́лі, пакі́нулі ў ду́рнях

– v.i. 1. стро́іць ду́рня, рабі́ць глу́пствы; бакі́ абіва́ць, бі́бікі біць. 2. удава́ць, жартава́ць: ***I was only fooling*** Я то́лькі жартава́ў

– v.t. ашу́кваць, абду́рваць, пакіда́ць у ду́рнях

• ***fool around*** а) абіва́цца (*бяз спра́вы*). б) фліртава́ць, ба́бнічаць

• ***fool away*** Informal а) ма́рна, бяз то́лку тра́ціць час, гро́шы, марнава́ць здаро́ўе. б) змарнава́ць наго́ду

• ***fool with*** неразу́мна забаўля́цца *чым*, або́ гуля́ць з *чым*

**foolery** [ˈfu:ləri] n. 1. дурно́та, ду́расьць *f.* 2. блазе́нства *n.*

**foolhardy** [ˈfu:lˌhɑ:rdi] adj. неразва́жны, легкаду́мны

**foolish** [ˈfu:lɪʃ] adj. 1. неразу́мны, дурны́. 2. сьме́шны, недарэ́чны

**foolishness** [ˈfu:lɪʃnəs] n. 1. дурно́та *f.*; ду́расьць, неразу́мнасьць *f.* 2. глу́пства *n.*

**foolproof** [ˈfu:lpru:f] adj. 1. ве́льмі про́сты *або́* зразуме́лы; разьлі́чаны на ду́рняў. 2. надзе́йны, пэ́ўны ва ўжы́тку (*пра машы́ну, прыла́ду*)

**foot** [fʊt] – n., pl. **feet** 1. ступня́ *f.* (*нагі́, панчо́хі*). 2. нага́ *f* . 3. падно́жжа *n.* (*гары́*), ніз -у *m.*, ні́жні край; п'едэста́л -а *m.* (*ста́туі*): ***the foot of a page*** ніз старо́нкі; ***at the foot (of the bed)*** у нага́х (*ло́жка*). 4. пяхо́та *f.* 5. ступа́ *f.*. (*ме́ра — 12 ца́ляў*): ***three feet = 1 yard*** тры ступы́ = 1 ярд. 6. Poet. стапа́ *f.* 7. крок -у *m.*, хада́ *f.* 8. но́жка *f.*, нага́ *f.* (*мэ́блі*). 9. ла́пка *f.* (*шве́йнае машы́ны*)

– v.t. 1. прахо́дзіць: ***to foot ten miles*** прайсьці́ 10 мі́ляў. 2. падвя́зваць ступню́ ў панчо́се. 3. Informal заплаці́ць (*раху́нак*): ***father foots the bill*** ба́цька пла́ціць. 4. падлі́чваць падсумо́ўваць: ***to foot a column of numbers*** падсумава́ць слупо́к лі́каў

– v.i. 1. ісьці́ пе́шкі. 2. танцава́ць

• ***foots*** аса́д|ак -ку *m.*, адпа́д|ы, адкі́д|ы -аў *pl. only* (*пры ачышча́ньні на́фты*)

• ***on foot*** а) пе́шкі, пе́ша, пехато́й, пехато́ю. б) у дзе́яньні, у ста́дыі падрыхто́ўкі

• ***put one's foot down*** прыня́ць цьвёрдую пастано́ву і рашу́ча дзе́яць

• ***put one's foot in it*** Informal а) се́сьці ў лу́жыну, апыну́цца ў няёмкім стано́вішчы. б) быць скра́йне нетакто́ўным

• ***under foot*** а) пад нага́мі (*круці́цца*). б) пад не́чай ула́дай, у няво́лі

**football** [ˈfʊtbɔ:l] – n. 1. футбо́льны мяч. 2. амэрыка́нскі футбо́л

– adj. футбо́льны: ***a football match*** футбо́льны матч

**footboard** [ˈfʊtbɔ:rd] n. пры́ступка, падно́жка *f.* (*і ў шве́йнай машы́не*)

**foot brake** нажны́ то́рмаз

**footfall** [ˈfʊtfɔ:l] n. 1. гук кро́каў. 2. крок -у *m.*; хада́ *f.*

**footgear** [ˈfʊtgɪr] n. абу́т|ак -ку *m.*

**foothold** [ˈfʊthoʊld] n. 1. апо́ра *f.* (*для нагі́*). 2. пункт апо́ры, апо́рны пункт: ***to gain (have) a foothold*** стаць

цьвёрдай нагóй; умацавáцца, замацавáцца

**footing** [ˈfʊtɪŋ] n. 1. апóра для нагí: ***to lose one's footing*** а) пасьлізнýцца, спатыкнýцца; б) вы́віхнуць, зьвіхнýць нагý. 2. умóва *f.*, станóвішча *n.*; дачынéньні *pl. only*: ***on a friendly footing*** у прыя́зных дачынéньнях. 3. фундáмэнт -у *m.*, падмýр|ак -ка *m.* 4. а) дадавáньне. б) агýльная сýма. 5. хаджэ́ньне, ступáньне *n.*

**footlights** [ˈfʊtlaɪts] n., pl. 1. рáмпа *f.* 2. актóрства *n.*; сцэ́на *f.*; тэáтр|ар -ру *m.* 3. асьвятлéньне сцэ́ны

**footman** [ˈfʊtmən] n., pl. **-men** 1. лёка|й -я *m.* 2. пехацін|ец -ца *m.*

**footmark** [ˈfʊtmɑ:rk] n. сьлед -у *m.*

**footnote** [ˈfʊtnoʊt] – n. знóска, спасы́лка *f.*, заўвáга пад тэ́кстам
– v.t. рабíць спасы́лкі, заўвáгі пад тэ́кстам

**footpath** [ˈfʊtpæθ] – n. сьцéжка *f.*, сьцяжы́нка *f., dim.*
– v.t. пратóптваць сьцéжку

**footprint** [ˈfʊtprɪnt] – n. сьлед -у *m.*, адбíтак нагí: ***to leave footprints*** сьлядзíць, пакідáць сьляды́
– v.t. адзначáць сьлядáмі (*мяжý*)

**footrace** [ˈfʊtreɪs] n. спабóрніцтвы ў бéгу; вы́перадкі *pl. only*

**footstep** [ˈfʊtstep] n. 1. крок -у *m.* 2. сьлед -у *m.*: ***to follow in another's footsteps*** рабíць так, як нéхта íншы рабíў; ісьцí па нéчыіх сьлядóх

**footsore** [ ˈfʊtsɔ:r] adj. з намýлянымі нагáмі

**footway** [ˈfʊtweɪ] n. хóднік -у, тратуáр -у *m.*

**footwear** [ˈfʊtwer] n. абýт|ак -ку *m.*, панчóхі *pl.*; анýчы *pl.*

**fop** [fɑ:p] – n. франт -а *m.*, фарсýн -á *m.*
– v.t. **fopped, fopping** ашукáць, абдурыць, пакíнуць у дýрнях

**foppery** [ˈfɑ:pəri] n., pl. **-peries** франтаўствó *n.*, форс, шык -у *m.*

**for** [fɔ:r; *unstressed* fər] – prep. 1. зáміж, замéст; узамéн за *што*: ***We used boxes for chairs*** Мы ўжывáлі скры́нкі замéст крэ́слаў. 2. за: ***We stand for peace*** Мы за мір; ***ten apples for a dollar*** дзéсяць я́блыкаў за даля́р; ***We thanked him for his kindness*** Мы падзя́кавалі ямý за ягóную вéтласьць: ***He was punished for stealing*** Ягó пакарáлі за крадзéж. 3. для, дзéля: ***books for children*** кнíгі для дзяцéй; ***just for fun*** тóлькі дзеля жáрту; ***a present for you*** падарýнак для цябе. 4. на: ***for a few minutes*** на кóлькі хвілíн; ***to go for a walk*** пайсьцí на прахóдку, прайсьцíся. 5. з; ад.: ***for joy*** з рáдасьці; ***for fear*** са стрáху; ***medicine for a cough*** лек ад кáшлю. 6. па: ***to send for a doctor*** паслáць па лéкара; ***to long for home*** сумавáць па дóме. 7. як на: ***It is warm for April*** Цёпла як на красавíк. 8. *пазначáе адлéгласьць, чáс*: ***We walked for a mile*** Мы йшлí мíлю; ***He worked for an hour*** Ён працавáў гадзíну; ***to wait for years*** чакáць гадáмі. 9. на (*сýма*): ***a check for $20*** чэк на двáццаць даля́раў. 10. па-за, ня глéдзячы на: ***for all that*** ня глéдзячы на ўсё гэ́та; ***For all his faults, we like him*** Ня глéдзячы на ўсé ягóныя загáны, мы лю́бім ягó
– conj. 1. тамý, што; дзеля тагó, што; бо: ***We can't go, for it is raining*** Мы ня мóжам ісьцí, бо йдзе дождж

**foray** [ˈfɔ:reɪ] – n. напáд, набéг, налёт -у *m.*
– v.t. спусташáць, нападáць з мэ́тай рабýнку

**forbade** or **forbad** [fərˈbæd] v., *p.t. of* **forbid**

**forbear I** [fɔ:rˈber] v.i. , v.t. **-bore, -borne, -bearing** 1. устры́мвацца. 2. быць цярплíвым, валóдаць сабóю. 3. Obsol. цярпéць; пераносíць, пераживáць

**forbear II** [ˈfɔ:rber] or **forebear**, n. прáшчур -а, прóдк|ак -ка *m.*

**forbearance** [fɔ:rˈberəns] n. 1. устры́манасьць *f.* 2. цярплíвасьць *f.*, самавалóданьне *n.*

**forbearant** [fɔ:rˈberənt] adj. стры́маны; паблáжлівы, цярплíвы

**forbid** [fərˈbɪd] v.t., **-bade** or **-bad, -bidden** or **-bid, -dding** 1. забараняць. 2. не дазваляць, не дапушчаць; прадухіляць: ***God forbid it!*** Барані Божа! Няхай Бог бароніць!

**forbidden** [fərˈbɪdən] – adj. забаронены
– v.t., *p.p. of* **forbid**: ***My father has forbidden me to go swimming in that river*** Мой бацька забараніў мне купацца ў той рацэ

**forbidding**[fərˈbɪdɪŋ] adj. 1. непрывабны; агідны, страшны. 2. пагражальны, небясьпечны

**forbore** [fɔ:rˈbɔ:r] v., *p.t. of* **forbear I**

**forborne** [fɔ:rˈbɔ:rn] v., *p.p. of* **forbear I**

**force** [fɔ:rs] – n. 1. сіла *f.*: ***by force*** сіламоц, сілком, сілаю, гвалтам. 2. гвалт -у, прымус -у *m.* 3. сіла *f.*, дзеяньне *n.* (*закону*): ***to come into force*** увайсьці ў сілу; стаць законным, дзейным; ***to remain in force*** заставацца ў сіле, дзеяць. 4. Phys. сіла *f.*: ***the force of gravitation*** сіла прыцягненьня
– v.t. 1. змушаць, прымушаць, прынукаць, прысіляць, нявoліць. 2. забіраць сілаю. 3. навязваць сілаю 4. узломваць (*замок, дзьверы*). 5. штучна прысьпешваць рост расьлінаў. 6. выціскаць (*усьмешку, сьлязу*). 7. гвалціць, гвалтаваць (*жанчыну*)
• ***by force of*** пры дапамозе *чаго*, праз *што*: ***by force of arms*** сілай зброі; ***by force of habit*** у выніку звычкі, праз звычку
• ***forces*** ваенныя сілы (*армія, авіяцыя і флёт*)
• ***in force*** а) у сіле, дзейны (*пра закон*). б) з усёй сілай

**forced** [fɔ:rst] adj. 1. прымусовы (*праца*). 2. змушаны (*усьмешка*); ненатуральны (*сьмех*)

**forcedly** [ˈfɔ:rsɪdli] adv. прымусова

**forceful** [ˈfɔ:rsfəl] adj. 1. поўны сілы; моцны, магутны. 2. дзейны, эфэктыўны, моцны, які ў сіле (*пра закон*); які робіць уражаньне, уражальны

**forcemeat** [ˈfɔ:rsmi:t] n. фарш -у *m.* (*мясны ці рыбны*)

**forceps** [ˈfɔ:rsəps] n., pl. **-ceps.** шчыпцы *pl. only* (*хірургічныя, дантыстычныя*)

**forcible** [ˈfɔ:rsəbəl] adj. 1. гвалтоўны: ***a forcible entrance into a house*** гвалтоўнае ўварваньне ў дом. 2. пераканаўчы, пераканальны; важкі; моцны (*словы, стыль*)

**forcibly** [ˈfɔ:rsəbli] adv. 1. гвалтоўна, гвалтам. 2. пераканаўча, важка, моцна

**ford** [fɔ:rd] – n. брод -у *m.*
– v.t. пераяжджаць, пераходзіць уброд

**fordable** [ ˈfɔ:rdəbəl] adj. які можна перайсьці *або* пераехаць уброд

**fore** [fɔ:r] – adj. пярэдні: ***the fore wall*** пярэдняя сьцяна
– adv. 1. сьпераду, напярэдзе, папярэдзе 2. Naut. сьпераду карабля
– n. 1. пярэдняя частка, перад -у *m.* 2. Naut. а) нос вадаплава, карабля. б) пярэдняя мачта

**fore-and-aft** [ˌfɔ:rənˈæft] adj. падоўжны, уздоўж карабля

**forearm I** [ˈfɔ:rɑ:rm] n. перадплечча *n.* (*частка рукі ад локця да кісьці*)

**forearm II** [fɔ:rˈɑ:rm] v.t. узбройвацца загадзя, рыхтавацца загадзя

**forebear**, also **forbear** [ˈfɔ:rber] n. (*звычайна ўжываецца ў множным ліку*) 1. прашчур -а *m.*, продlак -ка *m.*; продкі *pl.* 2. родапачынальнік -а *m.*

**forebode** [fɔ:rˈboud] – v.t. 1. перасьцерагаць; прадказваць. 2. прадчуваць (*нешта благое*)
– v.i. прадчуваць; прадракаць, прарочыць

**forebodement** [fɔ:rˈboudmənt] or **foreboding** [fɔ:rˈboudɪŋ] n. 1. прадказаньне *n.*, перасьцярога *f.* 2. прадчуваньне *n.*

**forecast** [ˈfɔ:rkæst] – v. 1. прадказваць. 2. плянаваць наперад; прадбачаць: ***to forecast the weather*** прадказваць надвор’е
– n. 1. прадказаньне *n.* 2. прадбачаньне *n.*

**foreclose** [fɔːrˈklouz] v. 1. не дапушча́ць, вылуча́ць: ***to foreclose objections*** не дапусьці́ць пярэ́чаньня, выка́званьня су́праць. 2. Law адмо́віць у пра́ве вы́купу іпатэ́кі ці закладно́е

**foreclosure** [fɔːrˈklouʒər] n. пазбаўле́ньне пра́ва вы́купу закладно́е

**forefather** [ˈfɔːrˌfɑːðər] n. про́д|ак -ка, папярэ́днік -а *m.*

**forefinger** [ˈfɔːrˌfɪŋgər] n. указа́льны па́лец

**forefoot** [ˈfɔːrfʊt] n., pl. **-feet** 1. пярэ́дняя ла́па. 2. Naut. пярэ́дні кане́ц кі́ля (*вадапла́ва*)

**for(e)go I** [fɔːrˈgou] v.t. **-went, -gone, going** 1. абыхо́дзіцца; адмаўля́цца; устры́мвацца: ***She decided to forego the movies and study*** Яна́ пастанаві́ла ня йсьці ў кіно́, а вучы́цца

**forego II** [fɔːrˈgou] v., **-went, -gone** папярэ́днічаць, быць пе́рад *чым*

**foregoing** [fɔːrˈgouɪŋ] adj. папярэ́дні

**foregone conclusion** 1. факт ама́ль ве́дамы напе́рад. 2. няўхі́льны вы́нік

**foreground** [ˈfɔːrgraʊnd] n. пярэ́дні плян (*карці́ны*): ***in the foreground*** на пярэ́днім пля́не, напе́радзе

**forehead** [ˈfɔːrhed] n. 1. лоб ілба́ *m.* 2. пярэ́дняя ча́стка

**foreign** [ˈfɔːrən] adj. 1. заме́жны; чужазе́мны: ***foreign trade*** заме́жны га́ндаль; ***foreign policy*** заме́жная палі́тыка. 2. незнаёмы, чужы́; дзі́ўны. 3. недаты́чны (*да спра́вы, тэ́мы*), незьвяза́ны (*з тэ́май*)

**foreigner** [ˈfɔːrənər] n. 1. заме́жнік -а *m.*, заме́жніца *f.*; чужазе́м|ец -ца *m.*, чужы́н|ец -ца *m.*; чужазе́мка *f.*, чужы́нка *f.* 2. заме́жны вадапла́ў

**foreign minister** міні́стар заме́жных спра́ваў

**foreknowledge** [fɔːrˈnɑːlɪdʒ] ве́даньне напе́рад, прадба́чаньне *чаго́*

**foreland** [ˈfɔːrlænd] n. 1. мыс -а *m.* 2. прымо́рскі край

**foreleg** [ˈfɔːrleg] n. пярэ́дняя нага́, пярэ́дняя ла́па

**forelimb** [ˈfɔːrlɪm] n. пярэ́дняя ла́па

**forelock I** [ˈfɔːrlɑːk] n. ку́дзер -а *m.*, па́сма валасо́ў над ілбо́м, чуб -а *m.*

**forelock II** [ˈfɔːrlɑːk] n., Tech. за́гваздка *f.*, шплінт -а *m.*

**foreman** [ˈfɔːrmən] n., pl. **-men** 1. ма́йст|ар -ра *m.*, прара́б, дзяся́тнік -а *m.*, тэ́хнік -а *m.*; зага́дчык цэ́ха. 2. старшыня́ прыся́жных

**foremost** [ˈfɔːrmoust] – adj. 1. пе́ршы, найпе́ршы: ***foremost in the line*** пе́ршы на чарзе́. 2. гало́ўны; перадавы́; са́мы ва́жны: ***foremost authority*** найбо́льшы аўтарытэ́т
– adv. пе́радам, насампе́рш, перш за ўсё: ***to fall head foremost*** упа́сьці пе́радам, галаво́й

**forenoon** [ˈfɔːrnuːn] – n. час перад по́ўднем, перадпаўдзённы час
– adj. перадпаўдзённы

**forepart** [ˈfɔːrpɑːrt] n. пе́ршая *або́* ра́ньняя ча́стка; пярэ́дняя ча́стка

**forerun** [ˈfɔːrrʌn] v.t. **-ran, -run, -running** 1. бе́гчы напе́радзе. 2. папярэ́днічаць; быць, адбыва́цца, здара́цца пе́рад *чым*. 3. быць зна́кам перасьцяро́гі. 4. папярэ́дзіць (*зрабі́ць ране́й за каго́*). 5. апярэ́джваць, выпярэ́джваць; пераганя́ць, абганя́ць

**forerunner** [ˈfɔːrˌrʌnər] n. 1. папярэ́днік -а *m.*, папярэ́дніца *f.*; прадве́сьнік -а *m.*, прадве́сьніца *f.* 2. папярэ́днік, про́д|ак -ка *m.*

**foresaw** [fɔːrˈsɔː] v., *p.t. of* **foresee**

**foresee** [fɔːrˈsiː] v.t. **-saw, -seen, -seeing** прадба́чваць

**foreseeingly** [fɔːrˈsiːɪŋli] adv. прадба́чліва

**foreseen** [fɔːrˈsiːn] v., *p.p. of* **foresee** прадба́чаны

**foreshadow** [fɔːrˈʃædou] – v.t. быць перасьцяро́гай; за́гадзя пака́зваць, прадка́зваць
– n. прыме́та *f.*, знак -у *m.*; прадве́сьце *n.*

**foreshadowing** [fɔːrˈʃædouɪŋ] n. прыме́та *f.* (*што ма́е ста́цца*), знак -у *m.*; прадве́сьце *n.*

**foreshow** [fɔːrˈʃou] v.t. **-showed, -shown** за́гадзя пака́зваць, прадка́зваць; прадвяшча́ць

**foresight** [ˈfɔ:rsaɪt] n. 1. прадбáчаньне *n.* 2. прадбáчлівасьць *f.*

**foreskin** [ˈfɔ:rskɪn] n., Anat. крáйняя плоць

**forest** [ˈfɔ:rəst] – n. 1. лес -у *m.* 2. (in English law) запавéднік -у *m.* (*для палявáньняў*)
– adj. лясны́: ***forest reserve*** лясны́ запавéднік
– v.t. засáджваць лéсам

**forestall** [fɔ:rˈstɔ:l] v.t. 1. папярэ́джваць; апярэ́джваць (*рабíць ранéй*). 2. прадухіля́ць

**forester** [ˈfɔ:rəstər] n. 1. лясьнíчы -ага *m.* 2. жыхáр лéсу (*зьвер, птýшка ці чалавéк*)

**forestry** [ˈfɔ:rɪstri] n. 1. лясная гаспадáрка. 2. лесавóдзтва *n.* 3. лясны́ абшáр

**foretaste** [ˈfɔ:rteɪst] – n. смакавáньне напéрад, прадчувáньне
– v.t. [fɔ:rˈteɪst] адчувáць смак напéрад, уяўля́ць напéрад; прадчувáць

**foretell** [fɔ:rˈtel] v.t. **-told, -telling** прадкáзваць

**forever** [fərˈevər] adv. 1. назаўсёды, навéк. 2. увéсь час; заўсёды

**forewarn** [fɔ:rˈwɔ:rn] v.t. перасьцерагáць

**foreword** [ˈfɔ:rwɜ:rd] n. прадмóва *f.*

**forfeit** [ˈfɔ:rfət] – v.t. 1. трáціць прáва; паплацíцца
– n. 1. стрáчаная рэч; спагнáньне *n.*, штраф -у *m.* 2. фант -а *m.*
• ***forfeits*** фáнты, *pl. only* (*гульня́ ў фáнты*)

**forgave** [fərˈgeɪv] v., *p.t. of* **forgive**

**forge I** [fɔ:rdʒ] – n. 1. кавáльскі гóран. 2. кýзьня *f.*
– v.t. 1. кавáць (*жалéза*). 2. выкóўваць. 3. падрабля́ць (*дакумэ́нты, грóшы, пóдпіс*)

**forge II** [fɔ:rdʒ] v.i. наступóва пераганя́ць, апераджáць (*пра бегунá*)

**forger** [ˈfɔ:rdʒər] n. 1. фальсыфікáтар, падрóбнік -а *m.* (*дакумэ́нты, пóдпіс*). 2. кавáль -я́ *m.*

**forgery** [ˈfɔ:rdʒəri] n., pl. **-geries** 1. падрабля́ньне *n.* 2. падрóбка *f.*, падрóблены (*дакумэ́нт, карцíна*)

**forget** [fərˈget] – v., **-got, -gotten, -getting** v.t. забывáць, не памятáць
– v.i. забывáцца

**forgetful** [fərˈgetfəl] adj. 1. забы́ўлівы, забы́ўчывы; няпáмятлівы. 2. нядбáлы, нядбáйны; няўвáжны, няўвáжлівы: ***a forgetful person*** забýдзька *m. & f.*

**forgetfulness** [fərˈgetfəlnəs] n. 1. забы́ўлівасьць, няпáмятлівасьць *f.*; благáя пáмяць. 2. няўвáжлівасьць, нядбáйнасьць *f.*

**forgivable** [fərˈgɪvəbəl] adj. прабачáльны, прабáчны; даравáльны

**forget-me-not** [fərˈgetminɑ:t] n. незабýдка *f.*

**forgive** [fərˈgɪv] v., **-gave, -given, -giving** 1. прабачáць. 2. даравáць (*доўг*), памíлаваць: ***to forgive sins*** адпушчáць, даравáць грахí

**forgiveness** [fərˈgɪvnəs] n. 1. даравáньне *n.* (*дóўгу, віны́*), прабачэ́ньне *n.* (*віны́*). 2. прабáчлівасьць *f.*

**forgiving** [fərˈgɪvɪŋ] adj. незлапóмны; які́ прабачáе

**forgo** [fɔ:rˈgoʊ] *гл.* **for(e)go**

**fork** [fɔ:rk] – n. 1. відэ́лец -льца *m.* 2. ві́лы *pl. only* (*да сéна*). 3. камэртóн -а *m.* 4. разгалінавáньне *n.* (*дарóг*), разьві́ліна. *f.* 5. прытóк -у *m.* (*ракí*)
– v.t. падкідáць *абó* капáць ві́ламі

**forked** [fɔ:rkt] adj. вілавáты, раздвóены; разьві́лісты

**forlorn** [fərˈlɔ:rn] adj. 1. усíмі пакíнуты; самóтны, адзінóкі, закíнуты. 2. няшчáсны, мізэ́рны, у рóспачы; жалюгóдны
• ***forlorn hope*** стрáчаная надзéя, безнадзéйная спрáва

**form** [fɔ:rm] – n. 1. фóрма *f.* 2. фігýра *f.*, вóнкавы вы́гляд (*чалавéка, жывёліны*). 3. фóрма *f.* (*пасýдзіны*). 4. спóсаб, мэ́тад -у *m.* 5. а) фармáльнасьць (*як напр. падавáньне рукí*). б) агýльнапрыня́тая фóрма; узóр -у *m.* 6. блянк -а *m.*; анкéта *f.*: ***application form*** блянк на заяву. 7. дóбры фізы́чны *абó* псыхíчны стан: ***to keep in***

***form*** трымáцца ў фóрме (*пра атлéта*). 8. Gram. фóрма *f.* 9. Brit. а) кляса *f.* (*у шкóле*). б) лáўка *f.*
– v.t. 1. надавáць фóрму. 2. утварáць. 3. арганізавáць, закладáць (*клюб*). 4. Milit. стрóіць, выстрóйваць (*полк*): ***to form oneself*** выстрóйвацца (*у лíніі*). 5. Gram. утварáць (*слóва, нóвую фóрму*); будавáць (*сказ*). 6. складáць: ***to form an opinion*** склáсьці дýмку, пóгляд
– v.i. 1. прымáць фóрму. 2. утварáцца. 3. стрóіцца (*у грýпы*)
• ***bad form*** дрэ́нны тон
• ***good form*** дóбры тон

**formal** [ˈfɔ:rməl] – adj. 1. фармáльны; афіцы́йны (*візы́т*); урачы́сты; сухí (*паклóн, тон*) 2. рэгуля́рны, сымэтры́чны.
– n. Informal афіцы́йны вéчар, якí вымагáе вечарóвага ўбóру. 2. жанóчы вечарóвы ўбóр

**formality** [fɔ:rˈmæləti] n., pl. **-ties** фармáльнасьць *f.*

**formation** [fɔ:rˈmeɪʃən] n. 1. утварэ́ньне, стварэ́ньне, заснавáньне *n.*: ***the formation of a state*** стварэ́ньне дзяржáвы. 2. строй -ю *m.*; будóва, пабудóва *f.*: ***the logical formation of his ideas*** лягíчная пабудóва ягóных дýмак. 3. фармáцыя *f.* (*геалягíчная*). 4. Milit. пастраéньне *n.*

**formative** [ˈfɔ:rmətɪv] adj. 1. фармавáльны, стварáльны, якí фармýе (*харáктар*). 2. Gram. словаўтварáльны

**formed** [ˈfɔ:rmd] adj. утвóраны, склáдзены (*сказ*)

**former** [ˈfɔ:rmər] adj. 1. папярэ́дні. 2. пéршы з двух: ***the former ... the latter*** пéршы... другí (апóшні). 3. ранéйшы; былы́; мінýлы, дáўні; калíшні: ***in former times*** даўнéй, ранéй

**formerly** [ˈfɔ:rmərli] adv. нéкалі; калíсьці; ранéй, перш

**formidable** [ˈfɔ:rmɪdəbəl] adj. 1. цяжкí, складáны (*задáньне, экзáмен*). 2. стрáшны, небясьпéчны, грóзны (*супрацíўнік*)

**formula** [ˈfɔ:rmjələ] n., pl. **-las** or **-lae** 1. фóрмула *f.* (*хімíчная ці матэматы́чная*). 2. дактры́на *f.*, рэлігійнае крэ́да. 3. рэцэ́пт -у *m.* 4. дзіця́чае харчавáньне (*сýмесь*)

**formulate** [ˈfɔ:rmjəleɪt] v.t. 1. выкáзваць, фармулявáць. 2. абазначáць фóрмулай

**forsake** [fərˈseɪk] v.t. **-sook, -saken** пакідáць; выракáцца, адракáцца

**forsaken** [fərˈseɪkən] v.t., *p.p. of* **forsake** пакíнуты, самóтны, адзінóкі, няшчáсны

**forswear** [fɔ:rˈswer] **-swore, -sworn** v. 1. адракáцца. 2. ілжы́ва прысягáць; парушáць прыся́гу

**fort** [fɔ:rt] n. 1. форт -у *m.*

**forth** [fɔ:rθ] adv. напéрад; надалéй, у далéйшым
• ***and so forth*** і гэ́так далéй; і да тагó падóбнае
• ***come forth from behind*** вы́йсьці наперад

**forthcoming** [ˌfɔ:rθˈkʌmɪŋ] adj. 1. надыхóдзячы; бýдучы; настýпны. 2. якí мóжа прыйсьцí, якí мóжна даць у вы́падку патрэ́бы: ***The help was not forthcoming*** дапамóга не прыхóдзіла

**forthright** [ˈfɔ:rθraɪt] – adj. 1. шчы́ры, адкры́ты, просталінéйны. 2. прóсты
– adv. 1. прóста напéрад. 2. адрáзу
– n. прóсты шлях, прóстая дарóга

**fortieth** [ˈfɔ:rtiəθ] adj. саракавы́, саракóвы

**fortification** [ˌfɔ:rtəfɪˈkeɪʃən] n. 1. фартыфікáцыя *f.*, умацавáньні (*як форт, мур, роў*). 2. ваéнныя збудавáньні *pl.* 3. фартыфікацы́йная інжынэ́рыя. 4. павышэ́ньне пажы́ўнасьці éжы дадавáньнем вітамíнаў і мінэ́ралаў

**fortify** [ˈfɔ:rtəfaɪ] **-fied, -fying,** – v.t. 1. умацóўваць сýпраць напáду, фартыфікавáць. 2. падтры́мваць (*фізы́чна й марáльна*). 3. падмацóўваць éжу мінэрáламі й вітамíнамі. 4. дадавáць алькагóлю ў напóй
– v.i. будавáць фóрты, абарóнныя муры́

**fortitude** [ˈfɔ:rtətu:d] n. мужнасьць *f.*, сіла ду́ху; стано́ўкасьць, адва́га

**fortnight** [ˈfɔ:rtnaɪt] n. два ты́дні

**fortnightly** [ˈfɔ:rtnaɪtli] – adv., Brit. раз на два ты́дні
– adj. двухтыднёвы
– n., pl. **-lies** двухтыднёвы ча́сапіс, двухтыднёвік -а *m.*

**fortress** [ˈfɔ:rtrəs] – n. цьвярды́ня, крэ́пасьць, цытадэ́ль *f.*; форт -у *m.*
– v.t. будава́ць цьвярды́ню, *або́* ахо́ўваць цьвярды́няй

**fortunate** [ˈfɔ:rtʃənət] adj. шчасьлі́вы; памы́сны: ***a fortunate occurrence*** шчасьлі́вае здарэ́ньне

**fortunately** [ˈfɔ:rtʃənətli] adv. на шча́сьце; шчасьлі́ва, памы́сна

**fortune** [ˈfɔ:rtʃən] n. 1. бага́цьце *n.* 2. до́ля *f.*; лёс -у *m.*; то́е, што ма́е ста́цца: ***to tell someone's fortune*** навараж ы́ць каму́. 3. шча́сьце *n.*; уда́ча, фарту́на *f.*; бага́цьце *n.*, дабрабы́т -у *m.*, даста́тlак -ку *m.*

**fortuneteller** [ˈfɔ:rtʃənˌtelər] n. варажбі́тка *f.*, варажбі́т -á *m.*

**fortunetelling** [ˈfɔ:rtʃənˌtelɪŋ] n. варажэ́ньне *n.*, варажба́ *f.*

**forty** [ˈfɔ:rti] n., pl. **-ties** со́рак
• ***forty winks*** Informal лёгкі каро́ткі сон: ***to have one's forty winks*** прыкархну́ць, задрама́ць

**forum** [ˈfɔ:rəm] n., pl. **-s**, **fora** [ˈfɔ:rə] 1. фо́рум -у *m.* 2. палітычны сход (*для дыску́сіяў*). 3. суд -у́ *m.*, трыбуна́л -у *m.*

**forward** [ˈfɔ:rwərd] – adv. напе́рад; упе́рад: ***Forward march!*** Напе́рад марш!; ***From this time forward*** Ад гэ́тага ча́су; ***Come forward*** вы́йдзі напе́рад
– adj. 1. пярэ́дні: ***a forward part*** пярэ́дняя ча́стка. 2. ра́ньні; больш разьві́ты за і́ншых (*пра дзіцё*); які́ ву́чыцца *або́* працу́е лепш за і́ншых. 3. гато́вы, ахво́чы (*дапамагчы́*). 4. адва́жны; наха́бны; бесцырымо́нны. 5. радыка́льны, кра́йні
– n. Sport фо́рвард -а *m.*
– v.t. 1. перасыла́ць. 2. прысьпяша́ць, спрыя́ць (*пра ду́мку, плян*)

**forwards** [ˈfɔ:rwərdz] adv. напе́рад, упе́рад

**fossil** [ˈfɑ:səl] – n. 1. вы́капlень -ня *m.* 2. скамяне́лыя парэ́шткі зьвяро́ў ці расьлі́наў. 3. старамо́дны, адста́лы чалаве́к. 4. Obsol. мінэра́льны вы́капень
– adj. 1. скамяне́лы, выкапнёвы; вы́капаны зь зямлі́. 2. старамо́дны, дапато́пны
• ***fossil fuel*** ву́галь, на́фта *або́* пры́родны газ

**foster** [ˈfɑ:stər] – v.t. 1. падтры́мваць (*надзе́ю*), спрыя́ць ро́сту *або́* разьвіцьцю́; заахво́чваць. 2. дагляда́ць зь любо́ўю, дба́ць; пе́сьціць. 3. гадава́ць; выхо́ўваць; узгадо́ўваць, дагляда́ць
– adj. прыёмны, нярo̓дны (*пра дзіця́*): ***foster son, foster daughter*** прыёмыш -а *m.& f.*

**foul** [faʊl] – adj. 1. сьмярдзю́чы; бру́дны, запэ́цканы, карэ́лы, нячы́сты. 2. ні́зкі, по́длы, нікчэ́мны. 3. непрысто́йны, бры́дкі: ***foul language*** бры́дкія сло́вы, ла́янка. 4. несумле́нны: ***a foul play*** несумле́нная гульня́, ашука́нства *n.* 5. заблы́таны (*вяро́ўка, я́кар*). 6. заткну́ты (*чым-н.*). 7. неспрыя́льны, благі́, бу́рны (*пра надво́р'е*): ***a foul wind*** ве́цер у твар. 8. паро́слы во́дарасьцямі або́ ра́кавінкамі (*пра дно карабля́*). 9. Informal ве́льмі непрые́мны, агі́дны, гі́дкі
– v. 1. пэ́цкаць. 2. гань́біць, зьнеслаўля́ць. 3. сутыка́цца з *чым*. 4. заблы́твацца, зачапля́цца. 5. затыка́ць|ь (-ца)

**found I** [faʊnd] v.t., *p.t. and p.p. of* **find**

**found II** [faʊnd] v.t. 1. засно́ўваць; адчыня́ць: ***to found the university*** адчыні́ць унівэрсытэ́т. 2. абапіра́ць; абгрунто́ўваць. 3. будава́ць (*на мо́цнай падста́ве*)

**found III** [faʊnd] v.t. Tech. расплаўля́ць (*мэта́л*); лі́ць, адліва́ць (*фо́рму*)

**foundation** [faʊnˈdeɪʃən] n. 1. фунда́мэнт -а *m.* ; падму́рlак -ка *m.* 2. абгрунтава́ньне *n.*; падста́ва *f.* 3. засна-

ва́ньне *n.* 4. арганіза́цыя, устано́ва, фунда́цыя *f.* 5. фонд, да́дзены на ўстано́ву

• ***foundation garments*** жано́чыя гарсэ́ты, паясы́

**founder I** [ˈfaʊndər] n. заснава́льнік -а *m.*, заснава́льніца *f.*

**founder II** [ˈfaʊndər] n. плаві́льшчык -а *m.*, ліцэ́йшчык -а *m.*

**founder III** [ˈfaʊndər] – v.i. 1. патана́ць, тану́ць, ісьці́ на дно. 2. закульга́ць (*пра каня́*)

– v.t. затапля́ць, пуска́ць на дно

**founding** [ˈfaʊndɪŋ] n. 1. выліва́ньне, ліцьцё *n.*: ***bell founding*** ліцьцё звано́ў. 2. заснава́ньне *n.*

**foundling** [ˈfaʊndlɪŋ] n. падкі́дыш -а, падкі́д|ак -ка, зна́йд|а -ы *m.*

**foundry** [ˈfaʊndri] n., pl. **-ries** ліцэ́йня, пла́вільня *f.*, ліцэ́йны заво́д

**fountain** [ˈfaʊntən] – n. 1. фанта́н -у *m.* 2. крыні́ца *f.* 3. рэзэрвуа́р -у *m.* (*чарні́ла, на́фты*): ***fountain pen*** ве́чнае пяро́, аўтару́чка *f.*

– v.i. пы́рскаць, біць фанта́нам

**four** [fɔ:r] n. 1. чаты́ры. 2. чацьвёрка *f.* (*людзе́й, ко́ней, ка́ртаў*): ***team of four horses*** чацьвёрка ко́ней

• ***on all fours*** на кара́чках (*на кале́нях і рука́х*)

**four-dimensional** [ˌfɔ:rdɪˈmenʃənəl] adj., Math. чатыро́хвымэ́рны, у чатыро́х вымэ́рах

**fourfold** [ˈfɔ:rfoʊld] – adj. чатырохразо́вы, чатырохкра́тны

– adv. у чаты́ры разы́ (*павялі́чаны*); у чаты́ры сто́лкі (*скла́дзены*)

**four-footed** [ˌfɔ:rˈfʊtəd] adj. чатыро́хно́гі

**four-handed** [ˌfɔ:rˈhændəd] adj. 1. чатырохру́кі (*пра ма́лпу*). 2. для чатыро́х асо́баў (*брыдж, гульня́*). 3. Mus. для чатыро́х ру́к

**foursquare** [ˌfɔ:rˈskwer] – adj. 1. квадра́тны (ко́рань, ду́жкі). 2. шчы́ры, адкры́ты (*які́ не маўчы́ць*). 3. мо́цны, непадаўкі́

– n. квадра́т -а *m.*

**fourteen** [ˌfɔ:rˈti:n] n., adj. чатырна́ццаць

**fourteenth** [ˌfɔ:rˈti:nθ] adj., n. чатырна́ццаты

**fourth** [fɔ:rθ] – adj. чацьвэ́рты

– n. чацьвэ́ртая ча́стка, чвэрць *f.*

**fourthly** [ˈfɔ:rθli] adv. па-чацьвэ́ртае

**fowl** [faʊl] – n., pl. **fowls** or (coll) **fowl** a) дзічына́ *f.*, вялі́кія пту́шкі (*асабл. сво́йскія*). б) мя́са з гэ́тых пту́шак

– v.i. палява́ць на дзі́кіх птушак

**fowler** [ˈfaʊlər] n. птушкало́ў -ва *m.*

**fowling** [ˈfaʊlɪŋ] n. палява́ньне на дзі́кіх пту́шак

**fox** [fɑ:ks] – n. 1. ліс -а *m.*, ліса́, лісі́ца, лі́ска *f.*: ***young fox*** лісянё, лісяня́ *n.*, *pl.* лісяня́ты. 2. лісі́нае фу́тра. 3. хі́тры чалаве́к

– v.t. Informal абхітры́ць, ашука́ць

– v.i. 1. хітры́ць. 2. кі́снуць (*пра пі́ва*). 3. выцьвіта́ць, пакрыва́цца бу́рымі пля́мамі (*пра папе́ру*). 4. палява́ць на лі́саў

**foxhole** [ˈfɑ:kshoʊl] n. 1. лісі́ная нара́. 2. малы́ ако́п для аднаго́ ці двух жаўне́раў

**foxtail** [ˈfɑ:ksteɪl] n. 1. лісі́ны хвост. 2. Bot. лісахво́ст -у *m.* (*трава́*)

**foxtrot** [ˈfɑ:kstrɑ:t] – n. 1. факстро́т (*та́нец*). 2. му́зыка для гэ́тага та́нцу. 3. хада́ ступо́ю, дро́бнымі кро́камі (*каня́*)

– v.i. танцава́ць факстро́т

**foxy** [ˈfɑ:ksɪ] adj. 1. хі́тры, як лісі́ца. 2. падмо́клы (*папе́ра*), пабле́клы, запля́млены. 3. ры́жы. 4. скі́слы (*пі́ва, віно́*). 5. му́скусны (*пах*)

**foyer** [ˈfɔɪr] n. фае́ *indecl., n.* (*у тэа́тры*); передпако́й -ю *m.*

**fraction** [ˈfrækʃən] – n. 1. Math. дроб -у *m.* 2. ча́стачка *f.*, фрагмэ́нт -а *m.*; абло́м|ак, аско́л|ак -ка *m.* 3. Chem. фра́кцыя *f.*, праду́кт перагонкі

– v.t. 1. дзялі́ць на ча́сткі. 2. расклада́ць рэ́чыва на паасо́бныя фра́кцыі

**fractional** [ˈfrækʃənəl] adj. 1. дро́бавы. 2. ве́льмі малы́, нязна́чны; часткóвы

**fractional currency** разьме́нная грашо́вая адзі́нка

**fractional distillation** фракцы́йная перагонка (дыстыля́цыя)

**fractious** [ˈfrækʃəs] adj. 1. злы; раздражнёны, раззлаваны. 2. непаслухмяны, упарты, наравісты

**fracture** [ˈfræktʃər] – v. зламаць (*руку*); зламацца

– n. расколіна, расшчэпіна, трэшчына *f.* (*у сьцяне*). 2. пералом, злом -у *m.* (*косьці*). 3. разры|ў -ву *m.* (*сяброўства*)

**fragile** [ˈfrædʒəl] adj. 1. ломкі, крохкі. 2. далікатны; кволы, слабы

**fragility** [frəˈdʒɪləti] n. 1. ломкасьць *f.* (*сьцябла, голасу*), крохкасьць *f.* 2. кволасьць, далікатнасьць *f.* (*здароўя*)

**fragment** [ˈfrægmənt] – n. 1. аскол|ак, абломlак, аскепlак -ка *m.*, кавал|ак -ка *m.* 2. уры|вак -ўка *m.*, фрагмэнт -а *m.* (*твору, гутаркі*)

– [ˌfrægˈment] v.t. разьбіваць *або* дзяліць на часткі

**fragmentary** [ˈfrægmənteri] adj. 1. урыўкавы, фрагмэнтарны, няпоўны (*расказ*), частковы. 2. Geol. абломкавы

**fragmentation** [ˌfrægmenˈteɪʃən] – n. 1. распад на часткі. 2. разрыў на асколкі (*бомбы, гранаты*)

– adj. асколачны (*граната, бомба*)

**fragrance** [ˈfreɪgrəns] or **fragrancy** [ˈfreɪgrənsi] n., pl. **-cies** водар -у *m.*, духмянасьць *f.*, пах -у *m.*

• ***fragrances*** парфума *f.*, духі *pl. only*

**fragrant** [ˈfreɪgrənt] adj. водарны, духмяны, пахучы

**frail** [freɪl] adj. 1. кволы, слабы (*напр. памяць*). 2. ломкі, крохкі. 3. маральна слабы, няўстойлівы, слабахарактарны

**frailty** [ˈfreɪlti] n., pl. **-ties** 1. кволасьць *f.* 2. маральная няўстойлівасьць

**frame** [freɪm] – n. 1. зруб -а *m.*, сталёвы каркас (*дому, мосту*); арматура *f.*; канструкцыя *f.* 2. цела *n.*; склад цела. 3. шкілет -а *m.* 4. форма *f.*; рама *f.*; рамка *f.* (*для здымка, абраза*). 5. парніковая рама. 6. кадр фільму

– v.t. 1. надаваць форму. 2. выпрацоўваць (*плян*). 3. апраўляць, устаўляць у рамку

**frame house** драўляны каркасны дом

**frame of mind** спосаб думаньня *або* адчуваньня; настро|й -ю *m.*

**framework** [ˈfreɪmwɜːrk] n. 1. каркас -а *m.* (*мосту*), рама *f.*, зруб -а *m.* 2. структура, сыстэма *f.*: ***the framework of the society*** грамадзкі лад

**franchise** [ˈfræntʃaɪz] n. 1. прывілé|й -ю, права нададзенае ўрадам. 2. права галасаваньня. 3. прывілей на продаж

**frank** [fræŋk] – adj. 1. шчыры, адкрыты. 2. яўны, адкрыты: ***frank mutiny*** адкрыты бунт

– v.t. 1. звальняць ад платы, пасылаць пошту бясплатна. 2. перавозіць *або* прапушчаць бясплатна

– n. 1. права на бясплатную перасылку пошты. 2. пошта, перасыланая бясплатна

**frankfurter** [ˈfræŋkfərtər] n. сасіска *f.*

**frankly** [ˈfræŋkli] adv. шчыра, адкрыта; яўна: ***Frankly, I don't believe it*** Шчыра кажучы, я ня веру гэтаму

**frankness** [ˈfræŋknəs] n. адкрытасьць, шчырасьць *f.*

**frantic** [ˈfræntɪk] adj. 1. узбуджаны, утрапёны. 2. ашалелы (*ад радасьці, болю, страху*). 3. Archaic умыслова хворы, звар'яцелы

**fraternal** [frəˈtɜːrnəl] adj. брацкі, братні

**fraternal order** or **society** таварыства ўзаемнай дапамогі, брацтва *n.*

**fraternity** [frəˈtɜːrnəti] n., pl. **-ties** 1. брацтва *n.* 2. студэнцкая карпарацыя. 3. братэрства *n.*

**fraternization** [ˌfrætərnəˈzeɪʃən] n. 1. братаньне *n.* 2. цеснае сяброўства

**fraternize** [ˈfrætərnaɪz] v.i. братацца

**fratricidal** [ˌfrætrɪˈsaɪdəl] adj. братазабойчы

**fratricide** [ˈfrætrɪsaɪd] n. 1. братазабойства *n.*, забойства брата або сястры. 2. братазабойц|а -ы *m.*

**fraud** [frɔːd] n. 1. круцельства, ашуканства, махлярства *n.*; падман -у *m.* 2. кру|цель -цяля *m.*, круцелька *f.*; махляр -а *m.*, махлярка *f.*

**fraudulent** [ˈfrɔːdʒələnt] adj. 1. круцельскі, ашуканскі, махлярскі. 2. зла-

мы́сны, зло́сьніцкі, падма́нны: ***a fraudulent offer*** зламы́сная прапано́ва; ***fraudulent gains*** прыбы́ткі, здабы́тыя ашука́нствам

**fray I** [freɪ] n. 1. крыклі́вая сва́рка. 2. бо́йка *f.*

**fray II** [freɪ] – v.t. праціра́ць (*но́сячы*), абтрэ́пваць, зно́шваць
– v.i. праціра́цца, абтрэ́пвацца, абдзіра́цца, зно́швацца
– n. працёртае ме́сца

**freak** [fri:k] – n. 1. a) дзіва́цтва *n.*, вы́думка *f.*, вы́брык -у *m.*; дзіва́к -а́ *m.*, дзіва́чка *f.*: ***freak of nature*** вы́брык пры́роды. 2. пачва́рнасьць *f.*, пачва́рная, ненарма́льная істо́та; пачва́ра *m. & f.*; вы́рад|ак -ка *m.* 3. капры́з -у *m.*, няўры́мсьлівасьць *f.* 4. раптоўная зьме́на ве́тру
– adj. ве́льмі дзіўны́, дзіва́цкі, незвыча́йны: ***freak accident*** дзіво́сны, незвыча́йны вы́падак

**freakish** [ˈfri:kɪʃ] adj. 1. незвыча́йны, дзівакава́ты; вы́чварны, дзіво́сны. 2. перабо́рлівы, капры́зны; прымхлі́вы, наравíсты. 3. сьмяхо́тны, дзі́ўны

**freckle** [ˈfrekəl] n. рабаці́нка *f.*
• ***freckles*** рабаці́ньне *n., coll.*

**freckled** [ˈfrekəld] adj. рабаці́ністы, з рабаці́ньнем

**free** [fri:] – adj. 1. во́льны, свабо́дны; незале́жны. 2. неабмежава́ны; вы́звалены (*з пало́ну, нямо́лі*); вы́пушчаны, зво́льнены (*ад абавя́зкаў*). 3. адво́льны: ***a free translation*** во́льны перакла́д. 4. непрымусо́вы; шчо́дры: ***of one's own free will*** добраахво́тна; ***to be free with one's money*** шчо́дра выдава́ць або́ дава́ць гро́шы. 5. шчы́ры, адкры́ты: ***too free with criticism*** зана́дта адкры́ты ў кры́тыцы. 6. бесцырымо́нны; распу́шчаны: ***His manner was entirely too free*** Яго́ныя мане́ры былі́ залі́шне бесцырымо́нныя. 7. бясплáтны, дармо́вы: ***a free ticket*** бяспла́тны біле́т. 8. свабо́дны: ***free of duty*** бяспо́шлінны, не абкла́дзены мы́там: ***free imports*** бяспо́шлінныя тава́ры; ***a free port*** во́льны порт. 9. адкры́ты, во́льны, досту́пны: ***free access*** адкры́ты до́ступ. 10. без: ***a day free from wind*** бязьве́траны дзень; ***free from pain*** бяз бо́лю, безбале́сны. 11. Chem. нязлу́чаны: ***Oxygen exists free in air*** Кісларо́д існу́е ў паве́тры ў нязлу́чаным ста́не
– adv. 1. во́льна, свабо́дна. 2. бяспла́тна
– v.t. 1. вызваля́ць (*зь нямо́лі*). 2. адпуска́ць (*руку́*), звальня́ць; разлы́гваць
• ***free and clear*** неабцяжа́раны (*даўга́мі*)
• ***free and easy*** зана́дта во́льны, бесцырымо́нны
• ***get free of*** пазбáвіцца *каго́*, вы́звaліцца ад *каго́-чаго́*
• ***set free*** вы́зваліць (*з пало́ну*), зво́льніць (*ад абавя́заньня*); адпусьці́ць; разлыга́ць

**freebooter** [ˈfri:ˌbu:tər] n. піра́т -а *m.*

**freed** [fri:d] adj., v. *p.t. and p.p. of* **free** вы́звалены; адпу́шчаны, зво́льнены

**freedom** [ˈfri:dəm] n. 1. во́ля *f.* ; свабо́да *f.*: ***freedom of speech (press)*** свабо́да сло́ва (прэ́сы). 2. во́льнае карыста́ньне. 3. во́льнасьць *f.*

**free enterprise** свабо́днае прадпрыма́льніцтва

**free-for-all** [ˈfri:fərˌɒ:l] – adj. адкры́ты, досту́пны для ўсі́х
– n. бо́йка усі́х з усі́мі

**freehand** [ˈfri:hænd] adj., adv. 1. ад рукí, руко́й (*піса́ць, чарці́ць*): ***freehand drawing*** малю́нак ад рукі́. 2. адво́льна, на во́льную руку́

**freehanded** [ˌfri:ˈhændɪd] adj. шчо́дры; лібэра́льны

**freehearted** [ˌfri:ˈhɑ:rtəd] adj. 1. шчы́ры, нескупы́; адкры́ты. 2. шчо́дры, лібэра́льны. 3. спако́йны, з чы́стым сумле́ньнем

**freelance** [ˈfri:læns] n. 1. во́льнанаёмны журналі́ст, пісьме́ньнік *або́* маста́к. 2. самасто́йны змага́р за не́йкую спра́ву. 3. Hist. наёмны жаўне́р

**freeloader** [ˌfri:ˈloʊdər] n. дармае́д -а *m.*
**freely** [ˈfri:li] adv. адво́льна, во́льна: ***to choose freely*** адво́льна выбіра́ць; ***to speak freely*** во́льна гавары́ць
**freethinker** [ˌfri:ˈθɪŋkər] n. вольнаду́м|ец -ца *m.*
**freeze** [fri:z] **froze, frozen, freezing**, – v.i. 1. замярза́ць, прымярза́ць: ***The water in the pipes froze*** Вада́ ў тру́бах заме́рзла; ***The pipes froze*** Тру́бы пазамярза́лі. 2. маро́зіць: ***It is freezing today*** Сёньня маро́зіць. 3. паме́рзнуць: ***The flowers froze last night*** Кве́ткі паме́рзьлі міну́лай но́ччу. 4. застыва́ць (*ад стра́ху, зьдзіўле́ньня*)
– v.t. 1. замаро́жваць (*і мя́са*); пакрыва́ць лёдам. 2. памаро́зіць (*фля́нцы, кве́ткі*). 3. ахаладжа́ць. 4. Informal замаро́жваць: ***to freeze wages (prices)*** замаро́жваць заро́бкі (*цэ́ны*). 5. Med. замаро́жваць (*для абязбо́льваньня*)
– n. 1. замаро́жваньне *n.*: ***wage freeze*** замаро́жваньне заро́бкаў. 2. маро́зны, зімо́вы час
• ***freeze (on) to*** мо́цна трыма́цца *чаго́*
• ***freeze out***, Informal вы́ціснуць (*канкурэ́нцыяй, непрыхі́льнасьцю*)
**freezer** [ˈfri:zər] n. маразі́льнік -а *m.*
**freezing** [ˈfri:zɪŋ] adj. 1. маро́зны, ледзяны́, сьцюдзёны: ***a freezing wind (weather)*** ледзяны́ ве́цер (маро́з). 2. які́ замаро́жвае: ***freezing point*** пункт замярза́ньня
**freight** [freɪt] – n. 1. фрахт -у *m.* а) перавóз тава́раў во́дным, сухапу́тным *або́* паве́траным шляхо́м. б) апла́та за перавóз; в) сам груз. 2. тава́р, груз -у *m.* 3. тава́рны цягні́к *або́* карабе́ль. 4. цяжа́р -у *m.*
– v.t. 1. грузі́ць (*карабе́ль*), нагружа́ць. 2. фрахтава́ць (*перасыла́ць, перавóзіць груз*). 3. здава́ць у арэ́нду *або́* найма́ць (*тава́рны карабе́ль*)
**freight car** тава́рны ваго́н
**freight train** or **freight** тава́рны цягні́к
**French** [frentʃ] – adj. францу́скі: ***French language*** францу́ская мо́ва
– n. 1. францу́зы coll. 2. францу́ская мо́ва: ***to speak French*** гавары́ць па-францу́ску
**French Canadian** 1. кана́дзец *або́* кана́дка францу́скага паxо́джаньня. 2. францу́ская мо́ва, яко́й гаво́раць у Кана́дзе
**French fries** бу́льба фры, фры́ткі *pl.*
**Frenchman** [ˈfrentʃmən] n., pl. **-men** 1. францу́з -а *m.* 2. францу́скі карабе́ль
**frenzied** [ˈfrenzid] adj. 1. мо́цна ўсхвалява́ны; утрапёны; ашале́лы: ***frenzied rage*** шал разьюшанасьці. 2. звар'яце́лы, ненарма́льны
**frenzy** [ˈfrenzi] n., pl. **-zies** 1. ашале́ласьць *f.*, разьюшанасьць *f.* 2. шале́нства *n.*: ***a frenzy of haste*** шалёны сьпех
**frequency** [ˈfri:kwənsi] – n., pl. **-cies** 1. ча́стасьць, часьціня́; частата́ *f.* 2. часто́тнасьць, пашы́ранасьць *f.*
– adj. часто́тны: ***frequency modulation*** (*у радыё*) часто́тная мадуля́цыя
**frequent** [ˈfri:kwənt] – adj. ча́сты, пашы́раны: ***frequent stops*** ча́стыя прыста́нкі; ***a frequent caller*** ча́сты наве́днік (*асабі́ста або́ тэлефані́чна*)
– [friˈkwent] v.t. 1. ча́ста наве́дваць, быва́ць. 2. ча́ста вадзі́цца, жыць (*пра жывёлу, пту́шак*): ***Frogs frequent ponds, streams and marshes*** Жа́бы во́дзяцца ў са́жалках, ручаёх і бало́тах
**frequentative** [friˈkwentətɪv] adj. Gram. шматразо́вы.
**frequenter** [friˈkwentər] n. ча́сты наве́днік
**frequently** [ˈfri:kwəntli] adv. ча́ста
**fresco** [ˈfreskoʊ] n., pl. **-coes** or **-cos** 1. фрэ́ска *f.* 2. фрэ́скавы жы́вапіс
**fresh** [freʃ] – adj. 1. сьве́жы: ***the fresh footmarks*** сьве́жыя сьляды́. 2 но́вы, дадатко́вы: ***a fresh news*** но́вая ве́стка. 3. прэ́сны: ***fresh water*** прэ́сная вада́. 4. сьве́жы (*несапсава́ны, некансэрвава́ны*): ***fresh milk*** сьве́жае малако́; ***fresh vegetables*** сьве́жая гаро́дніна. 5. недасьве́дчаны; бязь

ве́даньня жыцьця́. 6. Sl. грубія́нскі; саманадзе́йны; нахабны. 7. няда́ўна аце́леная (*каро́ва*).

– adv. сьве́жа, няда́ўна

**freshen** [ˈfreʃən] – v.t. асьвяжа́ць, аднаўля́ць; ажыўля́ць

– v.i. 1. мацне́ць (*пра ве́цер*). 2. асьвяжа́цца. 3. тра́ціць соль *або́* салона́сьць. 4. ацяля́цца, пачына́ць дава́ць больш малака́ (*пра каро́ву*)

**freshet** [ˈfreʃɪt] n. 1. паво́дка *f.*, разво́дзьдзе *n.* 2. рачна́я вада́, яка́я ўпада́е ў мо́ра

**freshly** [ˈfreʃli] adv. 1. сьве́жа. 2. няда́ўна

**freshman** [ˈfreʃmən] n., pl. **-men** 1. першаку́рсьнік -а *m.* (*ва ўнівэрсытэ́це*). 2. пачатко́|вец -ўца, навічл|о́к -ка́ *m.*

**fret I** [fret] – v.i. (**-tt-**) 1. быць раздражнёным, незадаво́леным, капры́зіць (*пра дзіця́*); злава́цца; хваляві́цца; гры́зьціся, му́чыцца: ***Do not fret about your mistakes*** Не перажыва́й за свае́ памы́лкі. 2. зно́швацца

– v.t. 1. раздражня́ць, гры́зьці; му́чыць, трыво́жыць, не дава́ць спако́ю (*пра ду́мкі*). 2. е́сьці (*пра моль*); пераяда́ць, разьяда́ць (*пра іржу́*); падмыва́ць, размыва́ць (*берагі́*); падто́чваць (*пра хваро́бу*). 3. лёгка хваля-ва́ць (*ваду́*)

– n. 1. раздражне́ньне *n.*; непако́|й -ю *m.*; грызьня́ *f.* 2. разьяда́ньне *n.* 3. вы́едзеная *або́* праце́ртая дзі́рка

**fret II** [fret] n. 1. прастаку́тны арна́мэнт. 2. галаўны́ ўбор з кашто́ўных камянёў або́ кве́так

**fretful** [ˈfretfəl] adj. 1. раздражнёны; зласьлі́вы, капры́зны (*пра хво́рае дзіця́*). 2. узбу́раны, неспако́йны, бурлі́вы (*мо́ра*). 3. гвалто́ўны (*ве́цер*)

**fret saw** ло́бзік -а *m.*

**friable** [ˈfraɪəbəl] adj. 1. ры́хлы (*пра гле́бу*). 2. ло́мкі; со́пкі (*пра бу́льбу*)

**friar** [ˈfraɪr] n. мана́х -а *m.*

**friary** [ˈfraɪəri] n., pl. **-aries** 1. мужчы́нскі манасты́р. 2. мана́хі *coll.*

**fricative** [ˈfrɪkətɪv] Phon. – adj. шчылі́нны, фрыкаты́ўны

– n. фрыкаты́ўны зы́чны (f, v, s, z)

**friction** [ˈfrɪkʃən] n. 1. Phys., Mech. трэ́ньне, це́рце, шарава́ньне *n.* 2. нелады́ *pl. only*; непаразуме́ньні *pl.*, разыхо́джаньні, спрэ́чкі *pl.*

**Friday** [ˈfraɪdeɪ] n. пя́тніца *f.*: ***Good Friday*** Вялі́кая пя́тніца

**fridge** [frɪdʒ] n., Informal = **refrigerator** лядо́ўня *f.*, халадзі́льнік -а *m.*

**fried** [fraɪd] adj., v. *p.t. and p.p. of* **fry** сма́жаны, скваданы: ***fried bacon*** сма́жанае са́ла, сква́рка *f.*

**friend** [frend] n. 1. ся́бр|а -ы *m.*, сябро́ўка *f.* 2. пры́яцел|ь -я *m.*, пры́яцелька *f.*: ***to be friends with*** сябрава́ць; ***to make friends with*** пасябрава́ць; здружы́цца

**friendlily** [ˈfrendlɪli] adv. па-сябро́ўску, прыя́зна

**friendliness** [ˈfrendlɪnəs] n. прыя́знасьць *f.*

**friendly** [ˈfrendli] adj. 1. сябро́ўскі: ***a friendly greeting*** сябро́ўскае прыві-та́ньне; ***in a friendly manner*** па-сябро́ўску. 2. прыя́зны

**friendship** [ˈfrendʃɪp] n. сябро́ўства *n.*, дру́жба, пры́язьнь *f.*

**fright** [fraɪt] – n. 1. пярэ́палах, страх -у *m.* 2. Informal пу́дзіла *n.*

– v.t., Poet. пало́хаць

**frighten** [ˈfraɪtən] – v.t. 1. пало́хаць; пужа́ць (*жывёліну*). 2. адпу́жваць

– v.i. пало́хацца, пужа́цца

**frightened** [ˈfraɪtənd] adj. спало́ханы, напало́ханы: ***I am frightened*** мне бо́язна, я баю́ся

**frightful** [ˈfraɪtfəl] adj. 1. страшэ́нны, жахлі́вы. 2. Informal страшэ́нны (*ве́льмі вялі́кі*), шалёны: ***a frightful hurry*** шалёны сьпе́х

**frigid** [ˈfrɪdʒɪd] adj. 1. ве́льмі сьцюдзёны (*клі́мат*). 2. хало́дны (*по́зірк, сло́вы*)

**frigidity** [frɪˈdʒɪdəti] n. хало́днасьць, сьцюдзёнасьць *f.*

**frill** [frɪl] – n. 1. фальбо́на, фальбо́нка *f.* (*у суке́нцы*); жабо́ *n., indecl.* 2. непатрэ́бныя аздо́бы (*то́лькі для фо́рсу*); крыўля́ньні (*у гу́тарцы, трыма́ньні*).

3. Anat. чапléц -цá *m.* (*у птýшкі, жывёліны*)
– v.t. аздабляць фальбóнкамі; мóршчыць (*у збóркі*)

**fringe** [frɪndʒ] – n. 1. фрэ́ндзлі *pl.*, аблямóўка *f.*, беражlóк -кá *m.*; грыўка *f.*, чубlóк -кá *m.* (*з валасóў*). 2. край -ю *m.*; крылó *n.* (*крáйняя групóўка*): ***on the fringe of the forest*** на ўзьлéсьсі, на ўзьлéску
– v.t. 1. абрабляць фрэ́ндзлямі: ***fringed*** з фрэ́ндзлямі. 2. аблямóўваць (*хýстку*), абвóдзіць, абкружáць
– adj. 1. скрáйні. 2. дадаткóвы, другарáдны: ***fringe demands*** другарáдныя патрабавáньні

**fringe benefits** 1. дадáтак да зарóбку (*страхóўка, плáтны адпачы́нак*). 2. дадаткóвая выгóда

**frippery** [ˈfrɪpəri] n., pl. **-peries** 1. тандэ́тная прэтэнзíйная вóпратка; тáнная біжутэ́рыя. 2. задавáньне *n.*; задавáцтва *n.*, фанабэ́рыстасьць *f.*

**frisk** [frɪsk] – v.i. гайсáць, вéсела бéгаць, гуляць, дурэ́ць
– v.t. 1. Sl. абшýкваць, абмáцваць (*шукáючы*). 2. Sl. абкрадáць такíм спóсабам
– n. вясёлыя скóкі, гульня *f.*, свавóльства *n.*

**friskful** [ˈfrɪskfəl] adj. 1. хýткі, шпáркі; жвáвы. 2. гарэ́зьлівы, гульлíвы; жартаўлíвы, дурасьлíвы

**frit** [frɪt] – n. 1. распláўленая шклянáя сýмесь, фры́та *f.*
– v.t. сьпякáць

**fritter** [ˈfrɪtər] v.t. 1. марнавáць, трáціць (*час, грóшы*). 2. рваць на малы́я кавáлкі

**frivol** [ˈfrɪvəl] – v.i. Informal легкадýмна трымáцца; забаўляцца, баламýціць
– v.t. прамантáчваць (*грóшы*), марнатрáвіць (*час, грóшы*)

**frivolity** [frɪˈvɑ:ləti] n., pl. **-ties** 1. легкадýмнасьць, фрывóльнасьць, несур'ёзнасьць, вéтранасьць *f.* 2. легкадýмны ўчы́нак

**frivolous** [ˈfrɪvələs] adj. 1. пусты́; легкадýмны, несур'ёзны, дурны́. 2. фрывóльны, нявáжны; малавáжны

**friz** [frɪz] or **frizz** – v.t. завівáць (*валасы́*)
– v.i. кучарáвіцца (*пра валасы́*)

**frizzle** [ˈfrɪzəl] – v.i. сквірчэ́ць (*пра смáжанае мя́са, сáла*)
– v.t. смáжыць сквáркі да хрýсткасьці
– n. сквірчэ́ньне *n.*

**fro** [froʊ] adv. назáд
• ***to and fro*** туды́ й назáд; узáд і ўпéрад; узáд-упéрад

**frock** [frɑ:k] n. 1. сукéнка, сýкня *f.* 2. халáт -а *m.* 3. сутáна, рáса *f.* (*сьвятарá*). 4. сурдýт -а *m.*

**frock coat** сурдýт -а *m.*

**frog** [ˈfrɑ:g] n. жáба *f.*, жáбка *f. dim.*
• ***frog in the throat*** хрыпóта

**frolic** [ˈfrɑ:lɪk] – n. 1. вясёлыя штýчкі, жáрты; вясёлае свавóльства. 2. вясёлыя гýльні
– v.i. гуляць, дурэ́ць, свавóліць
– adj. вясёлы, свавóльны; гульлíвы, гарэ́зьлівы, шýстры

**frolicker** [ˈfrɑ:lɪkər] n. гарэ́зла -ы *m. & f.*, свавóльнік -а *m.*

**frolicsome** [ˈfrɑ:lɪksəm] adj. вясёлы; гульлíвы, дурасьлíвы

**from** [frʌm; *unstressed* frəm] prep. 1. з, са (*на пытаньне: адкýль? з чагó?*): ***a train from Miensk*** цягнíк зь Мéнску; ***made from iron*** зрóблены з жалéза. 2. ад (*на пытаньне ад кагó-чагó? ад якóга чáсу?*): ***Take the book from her*** Вазьмí кнíгу ад яé; ***from that time*** ад тагó чáсу; ***to escape from fire*** уцячы́ ад агню́, пажáру; ***From morning till night*** Ад рáньня да нóчы, ад рáнку да вéчара. 3. ад (*пасьля́ дзеяслóваў: hide, conceal, differ, distinguish, tell*): ***She concealed it from me*** Янá затаíла гэ́та ад мянé; ***Anyone can tell apples from oranges*** Кóжны мóжа адрóзьніць я́блыкі ад апэльсы́наў. 4. з, дзéля (*для абазнáчаньня прычы́ны, матыву*): ***from a sense of duty*** з пачуцьця́ абавя́зку; ***from my own experience*** з маé ўлáснае прáктыкі

**front** [frʌnt] – n. 1. пéрад *чагó*: ***the front of the garden*** пéрад сáду: ***a shirt front*** пéрад кашýлі. 2. пярэ́днi бок, фасáд -а *m.* 3. Milit. фронт -у *m.*; перадавы́я пазы́цыі: ***service at the front*** слýжба на фрóнце. 4. згуртавáнасьць рóзных грýпаў у змагáньні (*палітычным, эканамічным*), фронт -у *m.*: ***the labour front*** рабóчы фронт. 5. набярэ́жная *f.*; прымóрскі бульвáр. 6. Informal прыкрыцьцё *n.*; фасáд -у *m.*; шы́льда *f.*: ***The club was just a front for gangster activities*** Клюб быў тóлькі прыкрыцьцём для гангстэ́рскае дзéйнасьці

– adj. 1. пярэ́днi: ***the front line*** пярэ́дняя лінія. 2. Phon. пярэ́днеязы́чны (*пра галóсныя*)

– v.t. 1. быць павéрнутым пéрадам: ***Our house fronts the park*** Наш дом павéрнуты пéрадам да пáрку. 2. супрацьстая́ць; супрацíвіцца

– v.i. 1. выхóдзіць на *што* (*быць накіравáным у які-н. бок*): ***The house fronts on the sea*** Дом выхóдзіць на мóра. 2. Informal (for) служы́ць фасáдам, прыкрывáць *што*

• ***change front*** завярнýць (-ца) у íншы бок

• ***in front of*** пéрад *кім-чым*

**frontage** [ˈfrʌntɪdʒ] n. 1. a) фасáд будынка, пярэ́дняя чáстка пля́цу. б) даўжыня́ гэ́тага фасáду. 2. дóступ -у *m.* (*да мóра, ракí, вýліцы*) 3. чáстка пля́цу памíж будынкам і вýліцай (*ракóй*)

**frontal** [ˈfrʌntəl] – adj. 1. лóбны: ***frontal bones*** лóбныя кóсьці. 2. лабавы́: ***a frontal attack*** лабавы́ напáд, лабавáя атáка. 3. Phon. пярэ́днеязы́чны

– n. 1. лóбная косьць. 2. фасáд -а *m.* (*дóму*)

**front bench**, Brit. пярэ́дня лáва ў парля́мэнце.

**frontier** [frʌnˈtɪr] – n. 1. дзяржáўная мяжá. 2. мяжá прасóўваньня пасялéнцаў у ЗША. 3. перадавáя галíна (*навýкі*). 4. Obsol. цьвярдыня *f.*; форт -у *m.*; памéжны гóрад

– adj. памéжны

**front page** тытульная старóнка

**front-page** [ˌfrʌntˈpeɪdʒ] – adj. зьмéшчаны на пéршай паласé газэ́ты; вáжны

– v.t. зьмяшчáць на пéршай паласé, падкрасьля́ць вáжнасьць *чагó*

**frost** [frɔ:st] – n. 1. марóз -у *m.*: ***sharp frost*** сьцю́жа *f.*, мóцны марóз. 2. шэ́рань *f.*, інéй -ю *m.* 3. халóднасьць, сьцюдзёнасьць *f.*; сýхасьць *f.* (*пачýцьцяў абó манéраў*). 4. Sl. няўдáча *f*, правáл -у *m.* 5. Informal ахаладжэ́ньне (*у сябрóўстве*), адчужэ́ньне *n.*

– v.t. 1. пакрывáць шэ́раньню, замарóжваць (*вóкны*). 2. палівáць, пакрывáць глязýрай (*пірóг*); пасыпáць цукрóвай пýдрай. 3. рабíць шкло мáтавым. 4. марóзіць (*кветкі*); замарóжваць (*рэ́кі, ваду*)

– v.i. замярзáць, мéрзнуць

**frostbite** [ˈfrɔ:stbaɪt] – n. адмарóжанае *абó* пашкóджанае марóзам мéсца, падмарóжаньне *n.*

– v.t. **-bit, -bitten, -bitting** адмарóжваць (*чáстку цéла*), падмарóжваць

**frostbitten** [ˈfrɔ:stˌbɪtən] adj. адмарóжаны, падмарóжаны, пашкóджаны марóзам

**frostbound** [ˈfrɔ:stbound] adj. замéрзлы (*зямля́*), скавáны марóзам (*рэ́чка*)

**frosting** [ˈfrɔ:stɪŋ] n. 1. глязýра (*для пірагá*). 2. мáтавасьць *f.* (*шкла, мэтáлу*)

**frostless** [ˈfrɔ:stləs] adj. безмарóзны (*год, дзень*)

**frosty** [ˈfrɔ:sti] adj. 1. марóзны. 2. замéрзлы, пакры́ты лёдам (*пра вóкны*). 3. халóдны (*у пачýцьцях, абыхóджаньні*), непрыя́зны: ***a frosty greeting*** халóднае прывітáньне. 4. сівы́, пасівéлы

**froth** [frɔ:θ] – n. 1. пéна *f.* (*на вадзé, і пéна з рóта жывёліны*). 2. пусты́я, банáльныя гýтаркі; балбатня́ *f.*

– v.i. 1. пéніцца. 2. запéньвацца (*пакрывáцца пéнай*)

– v.t. усьпéньваць, запéньваць; пéніць (*пакрывáць пéнай*)

**frothy** [ˈfrɔ:θi] adj. 1. пéністы: ***frothy soap suds*** пéністая мы́льная вадá. 2. лёгкі (*мýзыка*); плы́ткі, нявáжны (*гýтарка*)

**frown** [fraʊn] – n. 1. нахмýранасьць *f.* (*на твáры чалавéка*); панýры пóзірк. 2. насýпленасьць *f.*

– v.i. хмýрыцца, быць незадавóленым *абó* злóсным, насýпліващца. 2. глядзéць панýра

**frowsy** or **frowzy** [ˈfraʊzi] adj. 1. зáтхлы, пры́тхлы; пракíслы, скíслы (*пах*). 2. неахáйны; брýдны (*пакóй*)

**frozen** [ˈfroʊzən] adj. 1. замéрзлы (*вадá, ракá*). 2. памарóжаны (*травá, бýльба*). 3. замарóжаны (*мя́са*). 4. вéльмі сьцюдзёны. 5. Figur. халóдны; бяз сэ́рца: ***a frozen stare*** халóдны пóзірк

**frugal** [ˈfru:gəl] adj. 1. ашчáдны. 2. недарагі; сьцíплы (*невялíкі, нязнáчны*), мізэ́рны: ***a frugal supper*** сьцíплая вячэ́ра

**frugality** [fru:ˈgæləti] n., pl. **-ties** ашчáднасьць *f.*

**fruit** [fru:t] – n. плод, фрукт -а *m.*

– v. 1. радзíць (*пра расьлíны*), давáць ураджáй. 2. вырóшчваць садавінý

**fruits,** pl. 1. садавінá *f.*, фрýкты *pl.* 2. Figur. плён, вы́нік -у *m.* (*і ў прáцы*); прыбы́так -ку *m.*

• ***the fruits of the earth*** дары́ прырóды

**fruiter** [ˈfru:tər] n. 1. садóвае дрэ́ва. 2. садóўнік -а *m.* 3. карабéль для перавóжаньня садавіны́

**fruitful** [ˈfru:tfəl] adj. 1. урадлíвы, ураджáйны (*дрэ́ва і глéба*). 2. плóдны; пладавíты (*рóзум*). 3. жыватвóрчы: ***fruitful showers*** жыватвóрчыя дажджы́. 4. плённы (*прáца*); кары́сны; выгóдны; прыбыткóвы

**fruitfulness** [ˈfru:tfəlnəs] n. 1. урадлíвасьць, пладавíтасьць *f.* 2. плённасьць (*прáцы*), прадукцы́йнасьць *f.*

**fruitless** [ˈfru:tləs] adj. 1. бескары́сны; дарэ́мны, мáрны. 2. неўрадлівы; пусты́ (*цьвет, зямля́*)

**frump** [frʌmp] n. старамóдна і неахáйна апрáнутая жанчы́на, неахáйніца *f.*

**frumpish** [ˈfrʌmpɪʃ] adj. 1. апрáнуты ў пашáрпанае, старамóднае адзéньне. 2. зласьлíвы; рэ́зкі; грýбы

**frustrate** [ˈfrʌstreɪt] v.t. 1. раскідáць, зрывáць (*пля́ны*); рабíць дарэ́мнымі спадзяВáньні. 2. расчарóўваць

**frustrated** [ˈfrʌstreɪtəd] adj. расчараВáны, зьнеахвóчаны

**frustration** [frʌsˈtreɪʃən] n. расчаравáнасьць, фрустрáцыя *f.*, крах надзéяў

**fry I** [fraɪ] **fried, frying,** – v.t. 1. смáжыць, сквáрыць: ***to fry potatoes*** смáжыць бýльбу

– v.i. смáжыцца, сквáрыцца

– n. смáжанае мя́са, смáжаная ры́ба, смáжанка, смажанíна *f.*

**fry II** [fraɪ] n., pl. **fry** 1. дрóбная ры́ба. 2. малады́я істóты, драбнатá, драбязá, жамярá *f.*, малéча -ы *f.* (*і пра дзяцéй*): Informal ***small fry*** а) малéча (*дзéці*). б) ня вáртыя ўвáгі рэ́чы абó людзі

**fryer** [ˈfraɪr] n. 1. кýрыца *абó* мя́са, прыдáтнае для смáжаньня. 2. патэ́льня для смáжаньня

**frying pan** патэ́льня *f.*

• ***out of the frying pan into the fire*** з агню́ ды ў пóлымя

**fuddle** [ˈfʌdəl] – v.t. Informal 1. паíць дап'янá. 2. адурмáньваць, п'янíць

– v.i. напівáцца

– n. 1. ап'янéньне *n.* 2. адурмáненьне *n.*

**fudge I** [fʌdʒ] n. іры́ска, карамéлька; мя́ккая цукéрка

**fudge II** [fʌdʒ] – v.i. 1. ашýкваць. 2. выкрýчвацца ад абавязáньня

– n. вы́думка, манá *f.*

**fuel** [ˈfju:əl] n. 1. пáліва *n.*, апáл -у *m.* 2. пáліва *n.* (*для рухавікóў*)

**fuel oil** мазýтнае пáліва, мазýт -у *m.*

**fugacious** [fjuˈgeɪʃəs] adj. 1. нетрывáлы. 2. мімалётны; праміну́чы, недаўгавéчны. 3. лятýчы, які́ хýтка выпарáецца

**fugacity** [fjuˈgæsəti] n. 1. мімалётнасьць, нетрывáласьць, праміну́часьць *f.* 2. лятýчасьць *f.*

**fugitive** [ˈfju:dʒətɪv] – n. 1. зьбéглIы -ага *m.*; бягýн -á *m.* 2. уцякáч уцекачá *m.*, уцякáчка *f.* 3. Obsol. дэзэртэ́р -а *m.*
– adj. 1. зьбéглы. 2. мімалётны, мінýчы. 3. вандрóўны; бадзя́жны

**fulcrum** [ˈfʌlkrəm] n., pl. **-rums, -cra** 1. пункт апóры. 2. апóра *f.*

**fulfil** or **fulfill** [fʊlˈfɪl] v.t. 1. выкóнваць (*абяцáньне, абавя́зак, кантрáкт*). 2. ажыцьцяўля́ць; здавальня́ць (*вымóгі*); адпавядáць (*умóвам, мэ́це*)

**fulfilment** or **fulfillment** [fʊlˈfɪlmənt] n. выканáньне, ажыцьцяўлéньне *n.*, зьдзяйсьнéньне, задавальнéньне *n.*

**full I** [fʊl] – adj. 1. пóўны; цэ́лы: ***a full cup*** пóўны кýбак; ***He ran a full mile*** Ён бег цэ́лую мíлю. 2. сы́ты, пад'éўшы. 3. (*пра брáта, сястрý*) рóдны. 4. крýглы: ***a full face*** пóўны, крýглы твар. 5. шырóкі: ***a full skirt*** шырóкая спаднíца. 6. пóўны; мóцны: ***a full voice*** мóцны, гýчны гóлас
– adv. 1. цалкóм; зусíм пóўна. 2. якрáз, прóста: ***The ball hit him full on the nose*** Мяч удáрыў ягó прóста ў нос. 3. вéльмі, нáдта: ***full well*** вéльмі дóбра
• ***full of*** а) напóўнены, пóўны. б) заня́ты: ***He is full of his own affairs*** У ягó пóўна сваíх спрáваў

**full II** [fʊl] v.t. валя́ць (*сукнó*)

**fullback** [ˈfʊlbæk] n. абарóнцIа -ы *m.* (*у футбóле, хакéі*)

**full blood** чы́стая рáса

**full-blood** [ˌfʊlˈblʌd] adj. рóдны (*пра брáта, сястрý*)

**full-blooded** [ˌfʊlˈblʌdɪd] adj. 1. чыстакрóўны, чы́стае рáсы; рáсавы, парóдзісты (*пра жывёліну*). 2. паўнакрóўны; мóцны

**full-blown** [ˌfʊlˈbloʊn] adj. зусíм распусьцíўшыся (*пра квéтку*); у пóўным квéце

**full dress** вечарóвы *абó* парáдны ўбóр

**full-length** [ˌfʊlˈleŋθ] adj., adv. 1. на ўвéсь рост (*пра партрэ́т, лю́стра*). 2. да зямлí (*пра сукéнку*), даўгí (*пра фýтра, палітó*)

**full moon** пóўня *f.*, пóўны мéсяц

**ful(l)ness** [ˈfʊlnəs] n. паўнатá *f.*, напóўненасьць *f.*
• ***in the fullness of time*** у свой час, у адпавéдны час

**full stop**, esp. Brit. крóпка *f.*, пункт -у *m.*; прыпы́нIак -ку *m.*

**full time** пóўны працóўны дзень

**full-time** [ˌfʊlˈtaɪm] adj. пóўначасóвы: ***a full-time job*** прáца на пóўны працóўны час.; ***full-time worker*** штáтны працаўнíк

**fully** [ˈfʊli] adv. 1. цáлкам, цалкóм; зусíм; пóўнасьцю: ***a fully automatic*** пóўнасьцю аўтаматы́чны. 2. дастаткóва, багáта. 3. даклáдна

**fulminant** [ˈfʊlmɪnənt] adj. 1. малáнкавы, бліскавíчны, грамавы́. 2. (*пра хварóбу*) раптóўны, хуткацéчны

**fulminate** [ˈfʊlmɪneɪt] – v.t 1. грамíць (*і ў дрýку*). 2. сурóва гáніць, крытыкавáць
– v.i. 1. раптóўна разьвівáцца (*пра хварóбу*). 2. выбухáць. 3. грымéць і блíскаць

**fulmination** [ˌfʊlmɪˈneɪʃən] n. 1. сурóвае асуджэ́ньне, згáненьне. 2. гвалтóўны вы́бух

**fulsome** [ˈfʊlsəm] adj. 1. шчóдры. 2. перабóльшаны, няшчы́ры (*пра пахвалý*). 3. Archaic агíдны; пры́кры

**fume** [fju:m] – n. 1. *often* **fumes** пáра *f.*, газ -у *m. абó* дым -у *m.* (*асаблíва шкóдны*); выпарэ́ньні *pl.* 2. мóцны пах (*квéтак, парфýмы*). 3. пахýчы дым (*як з ладáну абó папярóсаў*). 4. вы́бух злóсьці: ***in a fume*** у злóсьці, са злóсьці
– v.i. 1. выпáрвацца; дымíцца; пáхнуць, тхнуць, патыхáць: ***He fumed with beer*** Ад ягó патыхáла пíвам. 2. злавáцца
– v.t. абкýрваць (*ды́мам*)

**fumigate** [ˈfju:mɪgeɪt] v.t. 1. дэзынфікавáць (*ды́мам абó выпарэ́ньнямі*); абкýрваць

**fumigation** [ˌfju:mɪˈgeɪʃən] n. 1. абкýрваньне *n.* 2. дым *абó* выпарэ́ньні, ужывáныя пры абкýрваньні

**fumy** [ˈfju:mi] adj. 1. дымны; поўны дыму *або* выпарэньняў. 2. які дыміць *або* выдзяляе выпарэньні, пах

**fun** [fʌn] n. 1. пацеха, забава *f.* 2. жарт -у *m.*

• ***for*** or ***in fun*** дзеля жарту, жартам

• ***make fun of*** or ***poke fun at*** высьмейваць *каго-што*

**function** [ˈfʌŋkʃən] – n. 1. а) дзеяньне *n.*; прызначэньне *n.* б) абавязак -ку *m.*, абавязкі *pl.*; прафэсія *f.* 2. грамадзкая ўрачыстасьць *або* зборка. 3. Math. функцыя *f.*

– v.i. дзеяць, працаваць

**functional** [ˈfʌŋkʃənəl] adj. дзейны; функцыянальны

**functionary** [ˈfʌŋkʃəneri] – n., pl. **-aries** урадоўвец -ўца *m.*; функцыянэр -а, службовец -ўца, чыноўнік -а *m.*, чыноўніца *f.*: ***party functionary*** партыйны функцыянэр

– adj. афіцыйны

**fund** [fʌnd] – n. 1. фонд -у *m.* 2. запас -у *m.*

– v.t. 1. фінансаваць. 2. кансалідаваць (*капітал*). 3. укладаць (*капітал*). 4. адкладаць суму грошай

• ***funds*** а) грошы *pl.*, сродкі *pl.*; капітал -у *m.*

**fundament** [ˈfʌndəmənt] n. 1. фундамэнт -а *m.*, падмурак -ка *m.*; аснова *f.* 2. а) азадак -ка *m.*, ягадзіцы *pl.* б) задні праход (*у чалавека*)

**fundamental** [ˌfʌndəˈmentəl] – adj. 1. асноўны. 2. грунтоўны; істотны, галоўны, фундамэнтальны: ***fundamental changes*** грунтоўныя зьмены

– n. **fundamentals** асновы *pl.*

**fundamentally** [ˌfʌndəˈmentəli] adv. у асноўным

**funeral** [ˈfju:nərəl] – n. 1. пахавіны *pl. only*, пахаваньне *n.* 2. пахавальная працэсія

– adj. пахавальны: ***funeral home*** or ***parlor*** пахавальнае бюро

**fungous** [ˈfʌŋgəs] adj. губчаты, губкаваты; порысты.

**fungus** [ˈfʌŋgəs] n., pl. **-gi, -guses** 1. грыб, плесьня *f.*, губа-грыб (*на дрэвах*). 2. нешта, што хутка зьяўляецца або расьце, як грыб. 3. Med. грыбок -ка *m.*

**funicular** [fjuˈnɪkjələr] adj. канатны: ***funicular railway*** канатная дарога, фунікулёр -а *m.*

**funk** [fʌŋk] – n., Informal 1. пярэпалах -у *m.*, паніка *f.* 2. баязьлівец -ўца *m.*, баязьліўка *f.*

– v.t. 1. баяцца. 2. палохаць. 3. унікаць; ухіляцца

– v.i. старацца адыходзіць ад *чаго*, выходзіць, выступаць

**funnel** [ˈfʌnəl] n. 1. лейка *f.* 2. круглы мэталёвы комін (*у караблі*). 3. вэнтыляцыйная шахта

**funny** [ˈfʌni] adj. 1. сьмешны, сьмяхотны; забаўны, камічны: ***in a funny way*** сьмяхотна, сьмешна, забаўна. 2. Informal дзіўны, дзівосны; дзівацкі (*характар*), дзівакаваты (*чалавек*)

**funnyman** [ˈfʌnimən] n., pl. **-men**, Informal гумарыст -а *m.* (*пісьменьнік*), комік -а *m.* (*актор*)

**fur** [fɜ:r] – n. 1. поўсьць, шэрсьць *f.* 2. **furs** скуры пушных жывёлаў: ***fur coat*** футра *n.* 3. накіп -у *m.* (*у катле*); асадак -ку *m.* (*у бочцы*); налёт -у *m.* (*на языку ў хворага*)

– v. 1. падбіваць футрам. 2. пакрывацца налётам

**fur trader** скупнік скураў, футра

**furbearer** [ˈfɜ:rberər] пушны зьвер

**furbelow** [ˈfɜ:rbəlou] n. фальбона (*у сукенцы*)

**furbish** [ˈfɜ:rbɪʃ] v.t. 1. паліраваць, наводзіць глянец. 2. рамантаваць; паднаўляць; адсьвяжаць (*фарбы, веды*)

**furious** [ˈfjʊriəs] adj. 1. разьлютаваны; разбушаваны, разьятраны (*вецер*). 2. разьюшаны (*зьвер*), злосны (*позірк*), моцна ўзлаваны: ***He was furious*** Ён моцна ўзлаваўся. 3. шалёны (*бег*): ***a furious gallop*** шалёны галёп

**furiously** [ˈfjʊriəsli] adv. люта; разьюшана; шалёна

**furl** [fɜ:rl] v.t. згортваць (*крылы*), скручваць (*ветразі*), закрываць (*парасон*)

**furnace** [ˈfɜ:rnɪs] n. 1. горлан -на *m.*, плавільная печ. 2. печ для агравання, топка *f.*

**furnish** [ˈfɜ:rnɪʃ] v.t. 1. забясьпечваць; дастаўляць, дастачаць (*інфармацыю*). 2. мэбляваць, абсталёўваць мэбляю: ***furnished apartment*** мэбляваная кватэра

**furnishings** [ˈfɜ:rnɪʃɪŋz] n. a) абсталяваньне *n.*, мэбля *f.* б) прыналежнасьці адзеньня

**furniture** [ˈfɜ:rnɪtʃər] n. 1. мэбля *f.* 2. абсталяваньне *n.* 3. увесь інвэнтар -а *m.* 4. зьмесьціва *n.*

**furrow** [ˈfɜ:roʊ] – n. 1. баразна, баразёнка *f.* 2. каляіна *f.* (*ад колаў*), жолаб -у *m.* (*размыты вадою*), разора *f.* 3. складка, зморшчына *f.* 4. Poet. a) ральля *f.* б) ніва *f.*; поле *n.*
– v.t. 1. араць. 2. баразьніць. 3. моршчыць, утвараць моршчыны. 4. расьсякаць (*хвалі, паветра*)
– v.i. 1. моршчыцца (*пра твар*), зьбірацца ў маршчыны. 2. рабаціцца (*пра паверхню вады*)

**furrowy** [ˈfɜ:roʊi] adj. маршчыністы (*пра твар і пра няроўную паверхню*)

**further** [ˈfɜ:rðər] *compar.* – adv. and adj., *superl.* **furthest** 1. далей: ***further down*** далей унізе *або* ўніз. 2. шырэй; падрабязьней, больш: ***Inquire further into the matter*** Разьведай падрабязьней пра справу. 3. у дадатак да, затым, таксама; апрача таго: ***Let me further tell you*** Дазвольце мне дадаць
– adj. 1. далейшы. 2. дадатковы
– v.t. падтрымваць; дапамагаць правесьці *што*; спрыяць

**furtherance** [ˈfɜ:rðərəns] n. 1. прасоўваньне, падтрымваньне *n.* 2. падтрымка, дапамога *f.*; павышэньне *n.*

**furthermore** [ˈfɜ:rðərmɔ:r] adv. да таго ж; апрача таго, акрамя таго; звыш таго, таксама

**furthermost** [ˈfɜ:rðərmoʊst] adj. найдалейшы, найбольш адлеглы

**furthest** [ˈfɜ:rðɪst] superl. – adv. найдалей
– adj. найдалейшы, найбольш аддалены, адлеглы

**furtive** [ˈfɜ:rtɪv] adj. 1. зроблены крадком, употайкі *або* цішком, патайны, скрытны: ***a furtive glance*** позірк крадком. 2. хітры; схаваны

**furtively** [ˈfɜ:rtɪvli] adv. крадком, употай; употайкі, цішком; скрыта

**furuncle** [ˈfjurʌŋkəl] n., Med. скула *f.*, фурункул -а *m.*

**fury** [fjʊri] n., pl **-ries** 1. шал -у *m.*, разьюшанасьць *f.* 2. гвалтоўнасьць (*урагану*), заўзятасьць *f.* (*бою*). 3. ашалелы ад злосьці; зьлюка (*асабл. пра жанчыну*). 4. нястомная энэргія, заўзятасьць *f.*: ***to work with fury*** працаваць заўзята

**Fury** [fjʊri] n., pl. **-ries,** Myth. фурыя *f.*

**fuse I** [fju:z] n. 1. корак -ка *m.* (*электрычны засьцерагальнік*). 2. кнот -а *m.* (*у бомбе, снарадзе*)

**fuse II** [fju:z] – v.t. 1. плавіць. 2. сплаўляць (*злучаць шляхам плаўкі*)
– v.i. плавіцца, сплаўляцца (*пра мэтал*); тапіцца (*пра сьвечку*)

**fuselage** [ˈfju:səlɑ:ʒ] n. корпус (*самалёта, верталёта*), фюзэляж - а *m.*

**fusibility** [ˌfju:zəˈbɪləti] n. плаўкасьць *f.*

**fusible** [ˈfju:zəbəl] adj. плаўкі

**fusillade** [ˈfju:səleɪd] – n. 1. страляніна, залпавы агонь. 2. Figur. залп: ***a fusillade of questions*** град пытаньняў
– v.t. атакаваць залпавым агнём

**fusion** [ˈfju:ʒən] n. 1. плаўленьне, тапленьне *n.*; сплаўліваньне *n.*, сплаўка *f.* 2. расплаўленая *або* растопленая маса; сплаў -ву *m.* 3. зьліцьцё *n.*, спалучэньне, аб'яднаньне *n.*
• ***fusion bomb*** вадародная бомба

**fuss** [fʌs] – n. 1. празьмерная мітусьня. 2. пустыя гутаркі *або* турботы. 3. мітусьлівец -ўца *m.*, неспакойны чалавек
– v.i. мітусіцца
– v.t. выклікаць неспакой, турбаваць

**fussy** [ˈfʌsi] adj. 1. мітусьлівы, сумятлівы, неспакойны. 2. пераборлівы, патрабавальны. 3. поўны аздобаў: ***a fussy dress*** сукенка з замыславатым фасонам

**fusty** [ˈfʌsti] adj. 1. за́тхлы; цьвілы́, заплясьне́лы; цяжкі́ (*пра паве́тра*). 2. старамо́дны; застарэ́лы, адста́лы

**futile** [ˈfju:təl] adj. 1. дарэ́мны, ма́рны; няўда́лы; бескары́сны. 2. нява́жны, малава́жны. 3. пусты́; бязмэ́тны: ***a futile life*** пусто́е, бязмэ́тнае жыцьцё

**futility** [fjuˈtɪləti] n., pl. **-ties** 1. дарэ́мнасьць, ма́рнасьць, бескары́снасьць *f.* 2. малава́жнасьць, нява́жнасьць *f.*; легкаду́мнасьць *f.* 3. малава́жныя дзе́яньні, за́хады, падзе́і

**future** [ˈfju:tʃər] – n. 1. бу́дучыня, пры́шласьць *f.*: ***for the future*** на бу́дучыню; ***in the future*** у бу́дучыні; ***A young man with a future*** Малады́ чалаве́к з бу́дучыняй. 2. Gram. бу́дучы час дзеясло́ва

– adj. бу́дучы. а) ***future events*** бу́дучыя падзе́і. б) Gram. ***future tense*** бу́дучы час

• ***futures*** ф'ю́чэрсы (*біржава́я ку́пля або́ про́даж тава́раў напе́рад*)

**futurism** [ˈfju:tʃərˌɪzəm] n. футуры́зм -у *m.*

**futurist** [ˈfju:tʃərɪst] n. футуры́ст -а *m.*, футуры́стка *f.*

**futuristic** [ˌfju:tʃəˈrɪstɪk] adj. 1. футурысты́чны. 2. бу́дучы; прадба́чаны ў бу́дучыні

**fuze** [ˈfju:z] n. 1. дыстанцы́йная тру́бка (*для падры́ву снара́да, бо́мбы*), кнот -а *m.* 2. Electr. ко́рak -ка *m.*; *гл.* **fuse I**

**fuzz** [fʌz] – n. 1. пушы́нка *f.*; варсі́нкі, валаскі́ *pl.*; пух -у *m.*, пушо́к -ку́ *m.*: ***Peaches covered with fuzz*** Пэ́рсікі пакры́тыя пушко́м. 2. Sl. паліцыя́нт -а, мент мянта́, дэтэкты́ў -ва *m.*

– v.t. рабі́ць пушы́стым; пакрыва́ць пушко́м *або́* пушы́нкамі

– v.i. 1. пакрыва́цца пласто́м дро́бных пушы́нак. 2. разьлята́цца, як пух

**fuzzy** [ˈfʌzi] adj. 1. пушы́сты, як пух. 2. пакры́ты пушко́м. 3. зама́заны, ня́сны (*пра здымак*)

**fyke** [faɪk] n. рыба́цкая се́тка ў фо́рме ме́ха

# G

**G, g** [dʒi:] n., pl. **G's, g's** 1. *сёмая лі́тара ангéльскага альфабэ́ту.* 2. Mus. соль (*нóта*)

**gab** [gæb] – n. 1. балбатня́ *f.*, шчэ́бет -у *m.*, шчабятáньне *n.* (*птýшкі, дзіця́ці*)
– v.i. безупы́нна гавары́ць; шчабятáць; малóць языкóм

**gabardine** [ˈgæbərdi:n] n. габарды́н -у *m.*

**gabber** [ˈgæbər] n., Informal гаварýн -á *m.*, гаварýха *f.*; балбатýн -á *m.*, балбатýха *f.*

**gabbiness** [ˈgæbinəs] n., Informal балбатлíвасьць, гаварлíвасьць *f.*

**gabble** [ˈgæbəl] – v.i. 1. малóць языкóм. 2. балбатáць; сакатáць. 3. гагатáць (*пра гусь*)
– n. 1. балбатня́ *f.* 2. гóгат -у *m.* (*гусéй*).

**gabby** [ˈgæbi] adj. **-bier, -biest,** Informal гаваркí, гаварлíвы; балбатлíвы

**gad I** [gæd] **gadded, gadding,** – v.i. бадзя́цца, швэ́ндацца, снóўдацца; вандравáць
– n. 1. бадзя́ньне, туля́ньне *n.* 2. бадзя́г|а, валацýг|а, туля́г|а -і *m. & f.*

**gad II** [gæd] – n. 1. ражл|óн -нá *m.* 2. зубíла *n.*, клін -а *m.* (*для адбівáньня вугля́, руды́, скáлаў*)
– v.t. парóць; калóць; пóркаць (*чым-н. вóстрым*). 2. адкóлваць; адшчапля́ць

**gadabout** [ˈgædəˌbaut] Informal бадзя́г|а, валацýг|а *m. & f.*, туля́г|а -і *m.*

**gadbee** [ˈgædbi:] n. авад|зéнь -ня́ *m.*

**gadfly** [ˈgædflaı] n. 1. авад|зéнь, сьляпл|éнь -ня́ *m.* 2. назóл|а -ы *m. & f.*

**gadget** [ˈgædʒıt] n. 1. прылáда *f.* 2. мэханíчная навíнка. 3. цáцка, забáўка *f.*

**Gael** [geıl] n. 1. шатля́ндзкі гóрац. 2. шатля́ндзкі (*радзéй ірля́ндзкі*) кельт

**Gaelic** [ˈgeılık] – adj. 1. кéльцкі. 2. ірля́ндзкі
– n. 1. шатля́ндзкая мóва. 2. ірля́ндзкая мóва

**gag** [gæg] – n. 1. зáткала *n.*, зáтычка *f.* (*затыкáць рот*). 2. загáд, пастанóва спыні́ць дыскýсію. 3. прыстасавáньне трымáць рот адкры́тым падчáс апэрáцыі. 4. жарт -у *m.*, штукáрства *n.*
– v.t. 1. затыкáць рот. 2. прымушáць маўчáць, не давáць гавары́ць
– v.i. душы́цца ад ванíтаў

**gage I** [geıdʒ] n. 1. вы́клік-у *m.* 2. заклáд -у *m.*

**gage II** [geıdʒ] n., v.t. *гл.* **gauge**

**gaiety** [ˈgeıəti] n., pl. **-ties** 1. весялóсьць, рáдасьць *f.*, вясёлы настрóй. 2. уцéхі *pl.*, вясёлыя забáвы, гуля́нкі. 3. я́ркасьць, стракáтасьць (*сукéнкі*)

**gaily** [ˈgeıli] *такс.* **gayly**, adv. 1. вясёла; рáдасна. 2. я́рка: ***She was gaily dressed*** Янá былá адзéтая нáдта стракáта

**gain I** [geın] – v.t. 1. выйгравáць: ***to gain time*** вы́йграць час. 2. атры́мваць, забясьпéчваць (*сабé*). 3. дамагáцца, дасягáць. 4. сьпяшáцца (*пра гадзíньнік*). 5. выгáдваць: ***How much do I***

***gain by that?*** Колькі я выгадаю гэ́тым? 6. прыбыва́ць; дабіра́цца; дасяга́ць: ***The swimmer gained the shore*** Плыве́ц дасягну́ў бе́рагу. 7. дадава́ць: ***to gain weight*** прыбы́ць на вазе́: ***to gain strength*** набіра́цца сі́лаў
– v.i. 1. прыно́сіць кары́сьць, быць кары́сным; мець кары́сьць, карыста́ць. 2. рабі́ць по́ступ
– n. 1. прыбы́т|ак -ку *m.*; пры́рост -у *m.* (*ху́ткасьці*); вы́йгрыш -у *m.*; кары́сьць *f.* 2. прыбыва́ньне, павелічэ́ньне *n.* 3. нажы́ва *f.*: ***Greed is love of gain*** Пра́гнасьць — гэ́та імкне́ньне да нажы́вы
• ***gain on*** or ***upon*** дагання́ць
• ***gain over*** пераканáць, перацягну́ць на свой бок
• ***gains*** прыбы́ткі, зарóбкі *pl.*; дахо́д -у *m.*

**gain II** [geɪn] adj. 1. выгóдны; кары́сны; адпаве́дны. 2. зру́чны; спра́ўны, уме́лы

**gainful** [ˈgeɪnfəl] adj. 1. дахóдны; прыбыткóвы; выгóдны, кары́сны: ***a gainful occupation*** дахóдная прафэ́сія

**gainsay** [ˌgeɪnˈseɪ] – v., **-said** or **sayed, saying** 1. пярэ́чыць, супярэ́чыць; дыспутава́ць, спрача́цца. 2. супрацьдзе́яць, супрацьста́віцца
– n. пярэ́чаньне, адмаўле́ньне, супярэ́чаньне *n.*

**gait** [geɪt] n. хада́, пахóдка *f.*

**gala** [ˈgeɪlə] – n. урачы́стасьць *f.*; сьвя́та *n.*, фэстыва́л|ь -ю *m.*
– adj. урачы́сты, з урачы́стасьцямі; сьвятóчны; пара́дны: ***gala dress*** пара́дны ўбóр; ***gala night*** га́ля-спэкта́кль

**galaxy** [ˈgæləksi] n., pl. **-axies** 1. галя́ктыка *f.* 2. плея́да *f.*, імпаза́нтная, ве́лічная гру́па

**Galaxy** [ˈgæləksi] n. Мле́чны Шлях, Птушы́ная Дарóга

**gale I** [geɪl] n. 1. ве́льмі мóцны ве́цер, штóрм -у *m.*, бу́ра *f.* 2. раска́т, вы́бух -у *m.*: ***gale of laughter*** вы́бух сьме́ху. 3. Poet. ве́трык -а *m.*, зэфі́р -у *m.* 4. Informal весялóсьць *f.*; падня́ты настрóй, ра́дасная ўсхваліва́насьць

**gale II** [geɪl] n. Brit. пэрыяды́чная пла́та рэ́нты, працэ́нтаў

**gale III** [geɪl] n. Bot. васкóўнік -а *m.* (*куст, расьце́ на балóце*)

**gall I** [gɔ:l] n. 1. жоўць *f.* 2. жóўцевы пухі́р. 3. раздражне́ньне *n.*, злосьць, гóрыч *f.*; няна́вісьць *f.*
• ***dip one's pen in gall*** піса́ць зь няна́вісьцю й злóсьцю

**gall II** [gɔ:l] – v.t. 1. наму́льваць, наці́раць (*ра́ну*). 2. злава́ць, раздражня́ць. 3. дакуча́ць, назаля́ць (*вóрагу напа́дамі*); турбава́ць
– v.i. 1. наму́львацца, націрáцца (*да крыві́*). 2. рабі́ць злóсныя заўва́гі; абража́ць (*гóнар*)
– n. 1. ра́на *f.* 2. нацёртае ме́сца

**gallant** [ˈgælənt] – adj. 1. высакарóдны, му́жны; адва́жны. 2. ве́лічны; урачы́сты. 3. прыгóжы, пы́шны. 4. [gəˈlænt] галя́нтны, далікáтны; любóўны: ***gallant adventures*** любóўныя прыгóды
– n. 1. адва́жны, му́жны чалаве́к. 2. фарсу́н -а́ *m.*, франт -а *m.* 3. кавале́р -а *m.* 4. залётнік -а *m.*: ***to play the gallant*** фліртава́ць; заляца́цца
– v.t. 1. заляца́цца. 2. суправаджа́ць

**gallantry** [ˈgæləntri] n., pl. **-ries** 1. высакарóднасьць, му́жнасьць, адва́га *f.* 2. галя́нтнасьць, далікáтнасьць *f.* 3. ласка́васьць, ве́тлівасьць*f.*; камплімэ́нт -у *m.*; прые́мныя слóвы

**gall bladder** жóўцевы пухі́р

**gallery** [ˈgæləri] n., pl. **-leries** 1. галерэ́я *f.* 2. галерэ́я (*у тэа́тры, цы́рку*), галёрка *f.* 3. а) галерэ́я, маста́цкі музэ́й. 4. карці́нная галерэ́я

**galley** [ˈgæli] n., pl. **-leys** 1. гале́ра *f.* 2. ка́мбуз -а *m.* (*ку́хня на вадапла́ве*): ***galley slave*** сасла́ны на гале́ры; ка́таржнік -а *m.*

**galley proof** Print. гра́нка *f.*

**Gallic** [ˈgælɪk] adj. 1. га́льскі (*пра культу́ру, мóву га́лаў*). 2. га́льскі, францу́скі: ***Gallic wit*** францу́ская дасьці́пнасьць

**gallium** [ˈgæliəm] n. Chem. га́лій -ю *m.*

**gall-less** [ˈgɔ:lləs] adj. 1. бяз жóўці. 2. бяз гóрычы *абó* няна́вісьці

**gallon** [ˈgælən] n. галён -а *m.* (*мéра вáдкасьці — 3,78 л*)

**galloon** [gəˈlu:n] n. 1. галýн -ý *m.* 2. нашы́ўка з палóскі галунý

**gallop** [ˈgæləp] – n. галёп -у *m.*: ***at a gallop*** галёпам

– v.i. 1. бéгчы галёпам (*пра каня́*). 2. вéльмі хýтка гаварыць *абó* чытáць

– v.t. гнаць каня́ галёпам

• ***speak at a gallop*** гаварыць вéльмі хýтка

**gallows** [ˈgælouz] – n., pl. **-lowses** or **-lows** 1. вíсельня, шы́беніца *f.* 2. пакарáньне павéшаньнем

– adj. 1. Archaic or Sl. вáрты павéшаньня; злачы́нны, ліхадзéйны. 2. свавóльны, гарэ́зьлівы, непаслухмя́ны, шкóдны: ***gallows children*** гарэ́зы, няпóслухі; шкадляры́, пракýды

**gallows humor** гýмар з-пад шы́беніцы

**gallstone** [ˈgɔ:lstoun] n. жóўцевы кáмень

**galore** [gəˈlɔ:r] – adv. удóсыць, у дастáтку, у вялíкай кóлькасьці, шмат: ***There is fruit galore*** Вялíкі ўраджáй садавіны́

– adj. шматлíкі: ***problems galore*** шматлікія праблéмы, шмат праблéмаў

– n. дастáт|ак -ку *m.*, багáцьце *n.*; вялíкая кóлькасьць

**galosh** [gəˈlɑ:ʃ] n., usually **galoshes** 1. галёш -а *m.* 2. Obsol. чаравíк на драўля́най падэ́шве

**galvanic** [gəlˈvænɪk] adv. 1. гальванíчны. 2. узбуджáльны. 3. нечакáны; ненатурáльны, удавáны (*пра ўсьмéшку*)

**galvanise** [ˈgælvənaɪz] v.t. esp. Brit., *гл.* **galvanize**

**galvanization** [ˌgælvənəˈzeɪʃən] n. 1. гальванізавáньне *n.* 2. гальванізáцыя *f.*

**galvanize** [ˈgælvənaɪz] v.t. 1. гальванізавáць. 2. пакрывáць (*жалéза абó сталь*) тóнкім пластóм цы́нку. 3. узбудзíць рáптам (*нéйкае пачуцьцё*); пабуджáць, уздымáць (*да дзéяньня*)

**gamble** [ˈgæmbəl] – n. 1. азáртная гульня́. 2. рызыкóўнае прадпрыéмства *абó* спрáва

– v.i. 1. гуля́ць у азáртныя гýльні. 2. рызыкавáць, спэкулявáць: ***to gamble in stocks*** спэкулявáць на бíржы

– v.t. рызыкавáць (*грашы́ма, жыцьцём*), закладáцца на *штo*

• ***gamble away*** прайгрáць (*праз ры́зыку, нядбáльства*); растрáціць (*грóшы*)

**gambler** [ˈgæmblər] n. 1. азáртны гулéц. 2. афэры́ст -а *m.*, афэры́стка *f.*

**gambol** [ˈgæmbəl] – n. вясёлыя падскóкі (*у скóках ці гуля́ньні*), свавóльнасьць *f.*

– v.i. гайсáць, гóйсаць, вясёла падскóкваць: ***Lambs were gamboling in the meadows*** Авéчкі гайсáлі на лýзе

**game I** [geɪm] – n. 1. гульня́ *f.*; прылáды для гульнí. 2. Sport. гульня́, пáртыя *f.*: ***to lose a game*** прайгрáць гульню́. 3. дзíкая зьверынá, дзічы́на *f.*

– adj. 1. адвáжны, энэргíчны; заўзя́ты, з запáлам. 2. ахвóча гатóвы зрабíць штo-н.: ***to be game for anything*** быць гатóвым на ўсё, нічóга не баяцца

– v.i. гуля́ць у азáртныя гýльні на грóшы: ***to game deep*** гуля́ць на высóкую стáўку

– v.t. раскідáць, прамантáчваць грóшы; бáвіць час за азáртнымі гýльнямі: ***to game away one's inheritance*** прамантáчыць сваю́ спáдчыну

• ***be on or off one's game*** быць дóбрым абó благíм гульцóм

• ***die game*** памéрці ў баí, мýжна памéрці

• ***game laws*** прáвілы палявáньня, рыбалóўлі; закóны ахóвы дзічыны́

• ***games*** атлеты́чныя спабóрніцтвы: ***the Olympic games*** Алімпíйскія гýльні

• ***make game of*** сьмяя́цца, насьміхáцца з *карó-чагó*; кпіць з *кагó-чагó*

• ***play the game,*** Informal а) гуля́ць паводле прáвілаў. б) дзéйнічаць сумлéнна

• ***The game is up*** Спрáва прайгрáная; Плян ня ўдáўся

**game II** [geɪm] adj., Informal скалéчаны, зьнявéчаны (*пра нагý, рукý*); кульгáвы

**gamekeeper** [ˈgeɪmˌki:pər] n. лясьнíк -а *m.* (*які ахóўвае дзíкую зьверыну́*)

**gamete** [ˈgæmi:t] Biol. рухóмая палавáя клéтка расьлінных і жывёльных арганíзмаў, гамэ́та *f.*

**gamin** [ˈgæmɪn] n. вýлічны хлапчýк, беспрытýльнlы -ага *m.*

**gamma** [ˈgæmə] n., pl. **-mas** гáма, трэ́цяя лíтара грэ́цкага альфабэ́ту

**gamma rays,** pl., Phys. гáма-прамяні́

**gammon I** [ˈgæmən] – n. вэ́нджаны кумпя́к
– v.t. салíць, вэ́ндзіць (*мя́са, рыбу*)

**gammon II** [ˈgæmən] – v.i. 1. загавóрваць зýбы (*з мэ́тай ашукáньня*). 2. прыкíдвацца, удавáць
– v.t. ашýкваць *кагó*
– n. Brit., Informal лухтá *f.*

**gamut** [ˈgæmət] 1. Mus. гáма *f.* 2. паўнатá ў шэ́рагу, рáдзе: ***He ran a gamut from praise to contempt*** Ён прайшóў шлях ад пахвалы́ да пагáрды

**gamy** [ˈgeɪmi] adj. 1. з пáхам *абó* смáкам дзічы́ны, з душкóм. 2. багáты на дзічы́ну. 3. мýжны; пóўны запáлу; гарáчы. 4. Sl. непрыстóйны, бры́дкі; салёны, саланавáты (*пра анэкдóт*)

**gander** [ˈgændər] – n. 1. гусáк -á *m.* 2. ёлуп -а *m.*, ёлупlень -ня *m.* 3. Sl. працягглы пóзірк: ***take a gander*** прыглéдзецца
– v.i., Sl. аглядáць, разглядáцца, прыглядáцца

**gang** [gæŋ] – n. 1. шáйка, бáнда *f.*; хэ́ўра *f.*; клíка *f.*: ***a gang of thieves*** бáнда зладзéяў; ***a political gang*** палíты́чная хэ́ўра. 2. а) брыгáда рабóтнікаў. б) грýпа вя́зьняў. 3. камплéкт прадметаў, прылáдаў: ***a gang of oars*** камплéкт вёслаў. 4. табýн алéняў *абó* бізóнаў
– v.i. 1. (together) сябравáць, утварáць грýпу. 2. нападáць грýпай, бáндай
• ***gang up on*** спалучы́цца ў апазы́цыю *абó* да супóльнага супрацíву

**gangboard** [ˈgæŋbɔ:rd] n. схóдня *f.*, памóст, трап -у *m.*, клáдка *f.* (*для вы́хаду з карабля́*),

**ganger** [ˈgæŋər] n. нагля́дчык, дзяся́тнік -а *m.*

**gangling** [ˈgæŋlɪŋ] adj. цыбáты, няўклю́дны

**ganglion** [ˈgæŋgliən] n., pl. **-glia** or **-glions** 1. Anat. гáнглій -я *m.* (*скóпішча нэрвóвых клéтак, нэрвóвых вузлóў*). 2. цэ́нтар сíлы, дзéйнасьці, зацікаўлéньняў. 3. Med. пухлíна *f.*, кістá *f.*

**gangplank** [ˈgæŋplæŋk] n. *гл.* **gangboard**

**gang plow** двухлямéшны *абó* шматлямéшны плуг

**gangrene** [ˈgæŋgri:n] – n. гангрэ́на *f.*
– v.t. выклікáць гангрэ́ну
– v.i. падпадáць гангрэ́не; гнісьці́, гніць

**gangrenous** [ˈgæŋgrɪnəs] adj. гангрэнóзны, пашкóджаны гангрэ́най

**gangster** [ˈgæŋstər] – n. гáнгстэр, банды́т -а *m.*
– adj. гáнгстэрскі

**gangsterism** [ˈgæŋstərˌɪzəm] n. 1. гангстэры́зм (*арганізавáная злачы́ннасьць*), бандыты́зм -у *m.* 2. гáнгстэры *pl.*

**gangway** [ˈgæŋweɪ] n. 1. прахóд -у *m.* (*паміж радáмі*). 2. а) увахóд з трáпа. б) схóдня *f.* в) прахóд на караблí. 3. Brit. папярэ́чны прахóд, які́ падзяля́е палáту абшчы́наў на дзьве чáсткі. 4. штрэк -у *m.* (*у капáльні*)

**gaol** [dʒeɪl] – n., Brit. астрóг -у *m.*, турмá *f.*
– v.t. саджáць у астрóг

**gaoler** [ˈdʒeɪlər] n., Brit. астрóжны нагля́дчык

**gap** [gæp] n. 1. пралóм -у *m.*, дзíрка *f.* (*у плóце, сьцянé*). 2. а) прамéжlак -ку *m.*; прагáл, прабéл, прóпуск -у *m.* (*на бля́нках*). б) хíба *f.*, недахóп -у *m.* 3. вялíкае разыхóджаньне, рóзьніца ў паглядах. 4. гóрны прахóд, вýзкая цясьнíна ў гарáх
• ***fill a gap*** запóўніць прагáл; ліквідавáць недахóпы

**gape** [geɪp] – v.i. 1. шырóка раскрывáцца, шырóка разявáць рот; пазяхáць. 2. глядзéць, разя́віўшы рот ад зьдзіўлéньня. 3. (for) шукáць, мóцна хацéць *чагó*

– n. 1. дзірка, адтýліна, зéўра *f.* 2. разяўля́ньне *n.*, пазяхáньне *n.*, пóзех -у *m.* 3. зьдзіўлены пóзірк. 4. прáга *f.* (*вéдаў*), хацéньне *n.*

***• gapes*** пры́ступ пазяхáньня

**garage** [gəˈrɑ:ʒ] – n. гарáж -á *m.*, аўтагарáж -á *m.*

– v.t. стáвіць *абó* трымáць у гаражы́

**garb** [gɑ:rb] – n. адзéньне *n.*, вóпратка *f.*; убóр -у *m.*: ***military or priestly garb*** ваéннае абó сьвятáрскае адзéньне; ***peasant garb*** сяля́нская вóпратка

– v.t. адзявáць, апранáць

**garbage** [ˈgɑ:rbɪdʒ] n. 1. сьмéцьце *n.*; кухóнныя адкíды, адпáды. 2. Informal бязвáртасная літаратýра, мастáцтва; макулатýра *f.*

**garbage can** сьмéтніца *f.*

**garbage truck** сьмецьцявóз -а *m.*; грузавíк, які́ вывóзіць сьмéцьце

**garble** [ˈgɑ:rbəl] – v.t., **-bled, -bling** 1. падтасóўваць (*фáкты*), наўмы́сна скажáць, падабрáўшы тóлькі выгóднае. 2. перабльі́тваць (*фáкты*) міжвóльна. 3. сартавáць, выбірáць найлéпшае

– n. 1. падтасóўваньне, наўмы́снае скажэ́ньне *n.* 2. падтасавáны, скажóны *абó* перабльі́таны тэкст; ламáная мóва, слóва

**garden** [ˈgɑ:rdən] – n. 1. а) гарóд -у *m.*; гарóдчык -а *m.* (*для кветак*). б) сад -у *m.*: ***botanical garden*** батанíчны сад. 2. парк -у *m.*

– v.i. працавáць у гарóдзе

– v.t. апрацóўваць, абрабля́ць гарóд; развóдзіць сад

– adj. гарóдны, садóвы

***• garden bed*** градá, грáдка, грáдачка, клю́мба *f.*

**garden center** гарóдніцкая крáма

**gardener** [ˈgɑ:rdnər] n. гарóднік, садóўнік -а *m.*

**gardening** [ˈgɑ:rdnɪŋ] n. гарóдніцтва, садóўніцтва *n.*

**garden stuff** 1. гарóдніна, зелянíна *f.* 2. квéткі *pl.* 3. зéлень *f.* (*лíсьце дрэ́ваў, кустóў; травá*)

**gargle** [ˈgɑ:rgəl] – v.t. паласкáць (*гóрла, рот*)

– n. паласкáньне *n.*; вáдкасьць для паласкáньня гóрла

**garish** [ˈgerɪʃ] adj. 1. непрыéмна я́ркі, зы́ркі: ***the garish sun*** зы́ркае сóнца. 2. я́ркі, крыклíвы, безгустóўны (*гарнітýр*)

**garland** [ˈgɑ:rlənd] n. 1. вянлóк -кá *m.*, гірля́нда *f.* 2. збóрнік вéршаў, баля́даў, анталёгія *f.*

**garlic** [ˈgɑ:rlɪk] n. 1. часнлóк -акý *m.* 2. галóўка часнакý; зубóк часнакý

**garlicky** [ˈgɑ:rlɪki] adj. часнóчны, з запáхам часнакý

**garment** [ˈgɑ:rmənt] – n. 1. адзéжына *f.* 2. пóкрыва *n.*

– v.t. адзявáць, апранáць

**garment bag** адзéжны мяшóк

**garner** [ˈgɑ:rnər] – v.t. 1. звóзіць і ссыпáць у клець (*збóжжа*). 2. зьбірáць, складáць (*кнíгі ў бібліятэ́ку*)

– v.i. зьбірáцца, набірáцца (*пра нянáвісьць*)

– n. 1. сьвíрлан -на *m.*, клець *f.* 2. склад -у *m.* (*для захóўваньня чагó-н.*)

**garnet** [ˈgɑ:rnɪt] – n. 1. гранáт -у *m.* (*каштóўны кáмень*). 2. цёмная чы́рвань

– adj. цёмна-чырвóны.

**garnish** [ˈgɑ:rnɪʃ] – n. 1. гарнíр -у *m.* 2. аздóба *f.*; убóр -а *m.*

– v.t. 1. аздабля́ць гарнíрам (*стрáвы*). 2. аздабля́ць, убірáць, упрыгóжваць

**garret** [ˈgærət] n. 1. паддáшша, гары́шча *n.*, гарá *f.* (*у дóме*). 2. паддáшлак -ка *m.*, мансáрда *f.* (*пакóй абó жылóе памéшканьне*)

**garrison** [ˈgærɪsən] – n. гарнізóн -у *m.*

– v.t. 1. стáвіць вóйска ў гóрад для абарóны. 2. увóдзіць вóйска ў гóрад, займáць гóрад пад гарнізóн. 3. разьмяшчáць, расквартарóўваць (*жаўнéраў*)

**garrulity** [gəˈru:ləti] n. гаварлíвасьць, балбатлíвасьць *f.*

**garrulous** [ˈgærələs] adj. 1. гаваркí, гаварлíвы, балбатлíвы. 2. расьця́гнуты, залíшне праця́глы, дóўгі; шматслóўны (*раскáз*)

**garter** [ˈgɑ:rtər] – n. падвя́зка *f.* (*для панчо́хаў*)
– v.t. адзява́ць на падвя́зку

**Garter** [ˈgɑ:rtər] n. ***Order of the Garter*** О́рдэн Падвя́зкі (*найстарэ́йшы рыцарскі о́рдэн у Вялікабрыта́ніі*)

**garter snake** малая бясшко́дная вужа́ка (*бранзо́ва-зеленава́татага ко́леру*)

**garter stitch** про́стая вя́зка пруткамі (*яко́й вя́жуцца панчо́хі, рукаві́цы*)

**gas I** [gæs] – n., pl. **gases** 1. газ -у *m.* 2. сьвяці́льны газ. б) газ-па́ліва. в) газсро́дак для абязбо́льваньня, анэстэ́зіі. 3. Mining грыму́чы *або́* рудніко́вы газ (*выбухо́вы*). 4. Milit. газ (*атру́тнае рэ́чыва*). 5. га́зы ў стра́ўніку *або́* кі́шках. 6. Sl. пуста́я балбатня́, выхва́льства, самахва́льства *n.*
– v.t. 1. напаўня́ць га́зам. 2. атру́чваць га́зам. 3. пуска́ць заду́шлівыя га́зы. 4. забіва́ць га́зам (*у га́завай ка́мэры*). 5. Informal, Sl. ашу́кваць, загаво́рваючы зу́бы
– v.i. 1. выдзяля́ць, выпуска́ць газ. 2. Sl. балбата́ць пусто́е; выхваля́цца

**gas II** [gæs] – n., Informal бэнзы́н -у *m.*, га́за, газалі́на *f.*: ***to step on the gas,*** Sl. ці́снуць на газ, хутчэ́й е́хаць (*аўтамабі́лем*), збо́льшыць ху́ткасьць
– v. напаўня́ць (*бэнзы́нам*)

**gas attack** га́завая ата́ка

**gas bottle** 1. рэто́рта *f.* 2. сталёвы цылі́ндар для захо́ўваньня згу́шчанага га́зу

**gas burner** га́завая гарэ́лка (*у га́завай пліце́, пры́мусе*)

**gas chamber** га́завая ка́мэра

**gas engine** га́завы рухаві́к

**gas furnace** 1. га́завая печ. 2. печ для газыфіка́цыі

**gaseous** [ˈgæsiəs] adj. га́завы (*стан*), га́западо́бны

**gas fitter** газаві́к -а́, газаправо́дчык -а *m.* (*які́ право́дзіць або́ раманту́е газаправо́дныя тру́бы*)

**gas helmet** or **gas mask** супрацьга́з, адга́зьнік -у *m.*, супрацьга́завая ма́ска

**gash** [gæʃ] – n. 1. а) даўгі́ глыбо́кі парэ́з, разрэ́з. б) даўга́я глыбо́кая ра́на
– v.t. рабі́ць даўгі́, глыбо́кі парэ́з *або́* ра́ну

**gasification** [ˌgæsɪfɪˈkeɪʃən] n. газыфіка́цыя *f.* (*пераатварэ́ньне цьвёрдага ці ва́дкага па́ліва ў гару́чы газ*)

**gasiform** [ˈgæsɪfɔ:rm] adj. газападо́бны

**gasify** [ˈgæsɪfaɪ] **-fied, -fying,** v.t. газыфікава́ць (*ву́галь, торф*), пераатвара́ць у гару́чы газ

**gas jet** 1. га́завая гарэ́лка. 2. га́завае по́лымя

**gasman** [ˈgæsmæn] n., pl. **-men** 1. газаві́к -а́ *m.* 2. а) рабо́тнік, які́ чыта́е га́завыя лічы́льнікі. б) збо́ршчык гро́шаў, нале́жных кампа́ніі за даста́ўлены газ. 3. газаправо́дчык -а *m.*

**gas mask,** *гл.* **gas helmet**

**gas meter** га́завы лічы́льнік, газамéр -а *m.*

**gasoline** or **gasolene** [ ˈgæsəli:n] n. 1. газалі́н -у *m.*, газалі́на, га́за *f.* 2. Amer. бэнзы́н -у *m.*

**gasp** [gæsp] – n. 1. зады́шка *f.*, ця́жкае ды́ханьне. 2. сло́вы, ска́заныя задыха́ючыся
– v.i. 1. задыха́цца, ця́жка ды́хаць. 2. мо́цна хаце́ць, го́рача жада́ць *чаго́*
– v.t. ледзь вы́мавіць, задыха́ючыся
• ***at the last gasp*** на апо́шнім узды́ху, пе́рад сьме́рцю
• ***gasp one's last*** паме́рці
• ***gasp out*** or ***forth*** насі́лу (з ця́жкасьцю) сказа́ць

**gasping** [ˈgæspɪŋ] – n. хапа́ньне паве́тра, ве́льмі цяжко́е *або́* су́таргавае ды́ханьне
– adj. су́таргавы, канвульсі́ўны, спазматы́чны

**gas pipe** га́завая труба́

**gas plant** га́завы заво́д

**gas range** га́завая пліта́

**gassed** [gæst] adj. атру́чаны га́зам

**gas station** запра́вачная ста́нцыя

**gas stove** га́завая печ для ацяпле́ньня або́ гатава́ньня

**gas tank** 1. цыстэ́рна для га́зу. 2. бэнзаба́к -а *m.* (*у аўтамабі́лі*)

**gastight** [ˈgæstaɪt] adj. газанепраніка́льны

**gastric** [ˈgæstrɪk] adj. стра́ўнікавы.
• ***gastric glands*** стра́ўнікавыя зало́зы
• ***gastric juice*** стра́ўнікавы сок
• ***gastric ulcer*** я́зва стра́ўніка

**gastritis** [gæˈstraɪtəs] n. Med. гастры́т -у *m.*

**gastronome** [ˈgæstrənoʊm] n. гастрано́м -а *m.*, зна́ўца і ама́тар сма́чнае е́жы, гурма́н -а *m.*

**gastronomic** [ˌgæstrəˈnɑ:mɪk] adj. гастранамі́чны (*вы́раб, кра́ма*)

**gastronomics** [ˌgæstrəˈnɑ:mɪks] n. *гл.* **gastronomy**

**gastronomy** [gæˈstrɑ:nəmi] n. гастрано́мія *f.*, то́нкае разуме́ньне і ве́даньне куліна́рнага майстэ́рства

**gas warfare** хімі́чная вайна́

**gasworks** [ˈgæswɜ:rks] n., pl. (sing. in use) га́завы заво́д

**gate** [geɪt] n. 1. варо́ты *pl. only*, бра́ма *f.*, ве́сьніцы *pl. only*.: ***small gate*** ве́сьнічкі, варо́тцы; бра́мка, фо́ртка *f.* 2. уваход -у *m.* (*у плоце, муры́*). 3. заста́ва *f.*, шлягба́ўм -а *m.* 4. го́рны прахо́д. 5. шлюз -а *m.* (*у га́ці, трубе́*)
• ***get the gate,*** Sl. быць зво́льненым

**gate crasher,** Sl. няпро́шаны госьць

**gatekeeper** [ˈgeɪtˌki:pər] n. бра́мнік -а *m.*, бра́мніца *f.*; вартаўні́к -а́ *m.*, вартаўні́ца *f.* пры бра́ме

**gateway** [ˈgeɪtweɪ] n. 1. бра́ма *f.*, уваход -у *m.* 2. перахо́д -у *m.*

**gather** [ˈgæðər] – v.t. 1. зьбіра́ць. 2. зрыва́ць; зьбіра́ць ураджа́й. 3. набыва́ць, набіра́ць (*ху́ткасьці*), назапа́шваць, памнажа́ць (*сі́лы*). 4. ду́маць; рабі́ць выснo̒ву. 5. зьбіра́ць, мо́ршчыць (*лоб*); зьбіра́ць у скла́дкі або́ збо́ркі (*спадні́цу*)
– v.i. 1. зьбіра́цца (*пра нато́ўп, хма́ры*). 2. нарыва́ць (*пра ра́ну*). 3. мо́ршчыцца
• ***gather breath*** перадыхну́ць, зрабі́ць каро́ткі перапы́нак для адпачы́нку
• ***gather up*** а) падыма́ць, падбіра́ць. б) падгарну́ць (*но́гі пад сябе́*)
• ***gathers*** збо́ркі *pl.* (*у суке́нцы*)

**gathering** [ˈgæðərɪŋ] n. 1. зьбіра́ньне *n.* 2. збор -у *m.* 3. збо́рка *f.*, сход -у *m.*; зьезд, зьлёт -у *m.*; нато́ўп -у *m.* 4. нагнае́ньне *n.*, нары́ў -ву *m.*

**gaudy I** [ˈgɔ:di] adj. 1. я́ркі, тандэ́тна крыклі́вы, безгусто́ўны. 2. страка́ты; квяці́сты (*і пра стыль ці мо́ву*)

**gaudy II** [ˈgɔ:di] n., pl. **-ies,** Brit. сьвятка-ва́ньне *n.*, урачы́стасьць (*асаблі́ва гадавы́ банке́т у ко́леджы*)

**gauge** [geɪdʒ] – n. 1. ме́ра *f.*; машта́б -у *m.* (*для ме́раньня*); эталён -а*m.* (*узо́р адзі́нкі вымярэ́ньня*). 2. вымяра́льная прыла́да. 3. крытэ́рый -ю *m.* 4. паме́р -у *m.*; ёмістасьць, ёмкасьць *f.* 5. калі́бр -у *m.* 6. шырыня́ чыгу́начнае каляі́: ***broad (narrow) gauge*** шыро́кая (ву́зкая) каляі́на
– v.t. 1. дакла́дна ме́раць, вымяра́ць, спраўджа́ць паме́р. 2. ацэ́ньваць (*чалаве́ка, хара́ктар*). 3. калібрава́ць (*правяра́ць калі́бар або́ шка́лу*). 4. вызнача́ць ёмістасьць
• ***gauge glass*** вадаме́рнае шкло

**Gaul** [gɔ:l] n. 1, Га́лія *f.* 2. гал -а *m.*, жыхар старажы́тнае Га́ліі. 3. францу́з -а *m.* 4. Фра́нцыя *f.*

**Gaulish** [ˈgɔ:lɪʃ] – adj. га́льскі (*культу́ра*)
– n. га́льская мо́ва

**gaunt** [gɔ:nt] adj. 1. схудне́лы, змарне́лы; худы́. 2. пусты́, го́лы й пану́ры

**gauntlet** [ˈgɔ:ntlət] n. 1. па́нцырная пальча́тка (*ча́стка ры́царскае збро́і*). 2. пальча́ткі для фэхтава́ньня, ко́ннай язды́: ***to take up the gauntlet*** а) прыня́ць вы́клік. б) вы́ступіць у абаро́ну; ***to throw down the gauntlet*** кі́нуць пальча́тку, кі́нуць вы́клік

**gauze** [gɔ:z] n. 1. ма́рля *f.*, газ -у *m.* (*ткані́на*). 2. драцяна́я се́тка. 3. смуга́, ды́мка *f.*; лёгкі тума́н

**gauzy** [ˈgɔ:zɪ] adj. га́завы, то́нкі й лёгкі як газ; празры́сты

**gave** [geɪv] v. *p.t. of* **give**

**gawk** [gɔ:k] – n. недарэ́кla -і *m. & f.*, разя́ва *f.*, разявя́кla, зява́кla -і *m. & f.*
– v.i., Informal бязду́мна ўзіра́цца, вытара́шчвацца

**gawky** [ˈgɔ:ki] – adj. нехлямя́жы; дзіўны́
– n. дзіва́к -а́ *m.*, недарэ́кla -і *m. & f.*

**gay** [geɪ] adj. 1. вясёлы; жыцьцярáдасны. 2. я́ркі, калярóвы. 3. шыкóўна апрáнуты. 4. распýсны; шалапýтны; змарнавáны (*пра жыцьцё*). 5. Informal гей -я, гомосэксуáл -а *m.*

**gaze** [geɪz] – v. узірáцца, прыглядáцца
– n. пільны, увáжлівы пóзірк

**gazelle** [gəˈzel] n. газэ́ль *f.*

**gazette** [gəˈzet] – n. 1. газэ́та. 2. esp. Brit., Can. афіцы́йны ўрáдавы бюлетэ́нь
– v.t. esp. Brit. публікавáць у дзяржáўным бюлетэ́ні

**gazetteer** [ˌgæzəˈtɪr] n. 1. слóўнік геаграфічных назóваў. 2. esp. Brit. выдавéц афіцы́йнага дзяржáўнага бюлетэ́ню

**G.C.F., g.c.f.,** or **gcf, greatest common factor** найбóльшы агýльны мнóжнік

**G.C.M., g.c.m.,** or **gcm, greatest common measure** найбóльшы агýльны дзéльнік

**gear** [gɪr] – n. 1. Tech. шасьцярня́ *f.*; зубчá(с)тае кóла. 2. зубчá(с)тая перадáча, прывóд -у *m.*, перадáтачны мэханізм. 3. апарáт -а *m.* ; прылáда *f.*, інструмэ́нт -а *m.*; прылáд|ак -ка *m.*, прылáдзьдзе *n.* 4. рухóмая маёмасьць. 5. вóпратка *f.*, адзéньне *n.*, убóр -у *m.* 6. збрýя, вýпраж *f.* (*для каня́*). 7. Naut. аснáстка *f.*, снáсьці вадаплáва, такелáж -у *m.*
– v.t. 1. забясьпéчваць прывóдам. 2. пускáць у рух. 3. падпарáдкаваць
– v.i. 1. спрáўна працавáць (*пра чáсткі машы́ны*). 2. рыхтавáцца, плянавáць
• ***in gear*** а) злýчаны з матóрам, улýчаны. б) спрáўны, прыгóдны для карыстáньня, у дóбрым стáне
• ***in high gear*** пóўным хóдам, у размáху, у разгáры, у пóўні
• ***out of gear*** а) няўлýчаны. б) у няспрáўным стáне, сапсýты
• ***shift gears*** а) мяня́ць хýткасьць. б) мяня́ць сваё стáўленьне, падыхóд

**gearbox** [ˈgɪrbɑːks] n. esp. Brit. **transmission** карóбка перадáчаў, карóбка хýткасьцяў, трансмíсія *f.*

**gear wheel** [ˈgɪrhwiːl] n. зубчá(с)тае кóла

**gee I** [dʒiː] – interj. но! напрáва! (*на каня́, аслá*)
– v. паварóчваць напрáва

**gee II** [dʒiː] interj., Informal ну, далібóг!

**geese** [giːs] n., *pl. of* **goose**

**geezer** [ˈgiːzər] n., Sl. дзівáк -á *m.*, старэ́ч|а -ы *m.* (*паравáжна пра мужчы́ну*)

**gelatin** [ˈdʒelətɪn] n. жэлятын -у *m.*

**gelatinous** [dʒəˈlætənəs] adj. 1. як жэлé. 2. жэлятынавы

**geld** [geld] v.t. лягчáць, пакладáць (*жывёліну*), кастравáць сáмца

**gem** [dʒem] – n. 1. каштóўны кáмень (*асаблíва рэ́заны, шліфавáны*); каштóўнасьць, пэ́рла *f.* 2. лíсьцевая пупы́шка *f.*
– v.t. 1. упрыгóжваць, прыбірáць каштóўнымі камяня́мі. 2. распускáцца (*пра дрэ́ва*)

**geminate** [ˈdʒemɪneɪt] – v. 1. падвóйваць (-ца), здвóйваць (-ца). 2. разьмяшчáць пáрамі
– adj. [ˈdʒemɪnət] падвóйны; якíя растýць пáрамі абó разьмéшчаныя пáрамі (*пра лíсты*)

**gemination** [ˌdʒemɪˈneɪʃən] n. 1. падвóйваньне, здвóйваньне *n.*; паўтарэ́ньне *n.* 2. Phon. падваéньне зы́чнага. 3. Rhetor. паўтарэ́ньне *n.*

**gemma** [ˈdʒemə] n., pl. **gemmae** 1. Bot. пупы́шка, пóкаўка *f.* 2. Zool. ны́рка *f.*

**gender** [ˈdʒendər] – n. 1. Gram. род -у *m.*
– adj. рóдавы: ***gender endings*** рóдавыя канчáткі. 2. Informal пол -у *m.*: ***the female gender*** жанóчы пол
– v.t., Archaic спараджáць, нараджáць

**gene** [dʒiːn] n., Biol. ген, гéна *m.*

**genealogical** [ˌdʒiːniəˈlɑːdʒɪkəl] adj. 1. генэалягíчны, радавóдны: ***genealogical tree*** радавóднае дрэ́ва. 2. генэалягíчная таблíца (*пра пахóджаньне жывёлаў абó расьлíнаў*)

**genealogy** [ˌdʒiːniˈælədʒi] n., pl. **-gies** 1. радавóдная *f.* 2. радавóд -у *m.*, генэалéгія *f.* 3. выяўлéньне *абó* дасьлéдаваньне радавóду

**genera** [ˈdʒenərə] n. *pl. of* **genus**

**general** [ˈdʒenərəl] – adj. 1. агу́льны: ***the general welfare*** агу́льнае дабро́; ***a general rule*** агу́льнае пра́віла. 2. ***a general reader*** сярэ́дні, звыча́йны чыта́ч. 3. павярхо́ўны: ***in a general way*** павярхо́ўна, агу́льна. 4. усеагу́льны (*вы́бары, страйк*). 5. гало́ўны, найвышэ́йшага ра́нгу.
– n. 1. генэра́л -а *m.* (*вайско́вы*). 2. агу́льны факт, пры́нцып, агу́льная ду́мка або́ цьве́рджаньне. 3. генэра́л рэлігі́йнага о́рдэну
• ***in general*** 1. наагу́л, нао́гул. 2. звыча́йна

**general assembly** агу́льны зьезд

**General Assembly** 1. Генэра́льная Асамбле́я (*Арганіза́цыі Аб'е́днаных На́цыяў*). 2. заканада́ўчы о́рган дзяржа́вы. 3. заканада́ўчая ўстано́ва некато́рых шта́таў у Злу́чаных Шта́тах Амэ́рыкі

**general election** усеагу́льныя вы́бары

**general headquarters** штаб гало́ўнакама́ндуючага, ста́ўка *f.*

**general hospital** 1. шпіта́ль агу́льнага ты́пу. 2. вайско́вы шпіта́ль, у які́ перавозя́ць хво́рых або́ ра́неных з палявóга шпіталю́

**generalissimo** [ˌdʒenərəˈlɪsɪmoʊ] n., pl. **-mos** генэралі́сімус -а *m.*

**generality** [ˌdʒenəˈrælәti] n., pl. **-ties** 1. агу́льная фра́за, павярхо́ўнае, неканкрэ́тнае цьве́рджаньне. 2. агу́льны пры́нцып *або́* пра́віла. 3. бальшыня́ *f.*, бо́льшая ча́стка. 4. агу́льная я́касьць, агу́льныя ўмо́вы

**generalize** [ˈdʒenərəlaɪz] – v.t. 1. абагульня́ць, падво́дзіць пад агу́льны зако́н, гру́пу. 2. выво́дзіць агу́льнае пра́віла з паасо́бных фа́ктаў. 3. папулярызава́ць, уво́дзіць у агу́льны ўжы́так
– v.i. 1. рабі́ць агу́льныя высно́вы. 2. гавары́ць агу́льна

**generally** [ˈdʒenərəlɪ] adv. 1. у бальшыні́ вып́адкаў, звыча́йна: ***He is generally on time*** Ён звыча́йна прыхо́дзіць у ча́с. 2. агу́лам, шыро́ка. 3. агу́льна, у агу́льных ры́сах, без падрабя́знасьцяў і дэта́ляў; ***generally speaking*** агу́лам ка́жучы

**generate** [ˈdʒenəreɪt] v.t. 1. твары́ць; утвара́ць; нараджа́ць, выкліќаць. 2. спараджа́ць, нараджа́ць. 3. Math. твары́ць, утвара́ць, ствара́ць (*кут, лі́нію*)

**generating plant** or **station** [ˈdʒenəreɪtɪŋ] электраста́нцыя *f.*

**generation** [ˌdʒenəˈreɪʃən] n. 1. пакале́ньне *n.*, род -у *m.*: ***from generation to generation*** з ро́ду ў род. 2. нараджэ́ньне *n.* 3. утварэ́ньне *n.*; выкліка́ньне, спрычыне́ньне *n.*

**generator** [ˈdʒenəreɪtər] n. 1. дына́ма *n.*, электры́чны генэра́тар. 2. газагенэра́тар -а *m.*

**generic** [dʒəˈnerɪk] adj. 1. ро́давы, характэ́рны для азна́чанага ві́ду. 2. агу́льны: ***a generic term*** агу́льны назо́ў, тэ́рмін

**generosity** [ˌdʒenəˈrɑːsәti] n., pl. **-ties** 1. шчо́драсьць *f.* 2. вялікаду́шнасьць *f.* 3. высакаро́дны ўчы́нак

**generous** [ˈdʒenərəs] adj. 1. шчо́дры, бескары́сьлівы. 2. высакаро́дны. 3. вялі́кі, важкі́: ***a generous piece*** вялі́кі кава́лак. 4. спо́рны, ураджа́йны: ***generous fields*** ураджа́йныя палі́

**genesis** [ˈdʒenəsɪs] n., pl. **-ses** [-siːz] 1. пача́т|ак -ку *m.*; пахо́джаньне *n.*; стварэ́ньне, зараджэ́ньне, узьнікне́ньне *n.*, ге́нэзыс -у *m.* 2. **Genesis** Кні́га Быцьця́ (*пе́ршая кні́га Старо́га Запаве́ту*)

**genetic** [dʒəˈnetɪk] adj. 1. генэты́чны (*су́вязь, інфарма́цыя*). 2. спа́дчынны праз ге́ны

**genetics** [dʒəˈnetɪks] n. генэ́тыка *f.*

**genial I** [ˈdʒiːnjəl] adj. 1. вясёлы; мі́лы; сардэ́чны, прыя́зны, ве́тлы: ***a genial welcome*** сардэ́чнае віта́ньне. 2. які́ разьвесяля́е, ажыўля́е. 3. мя́ккі; лаго́дны (*і пра клі́мат*); ласка́вы. 4. Obsol. натура́льны, прыро́джаны, прыро́дны: ***genial bent*** прыро́джаная схі́льнасьць

**genial II** [dʒəˈni:əl] adj., Anat. падбаро́дачны

**geniality** [ˌdʒi:niˈæləti] n. 1. весяло́сьць, тава́рыскасьць, сардэ́чнасьць, пры́язнасьць, ве́тласьць *f.* 2. лаго́днасьць *f.* (*клі́мату*)

**genie** [ˈdʒi:ni] n. дух, джын -а *m.* (*до́бры або́ злы́ дух у ара́бскай і пэрсы́дзкай міталёгіі*)

**genii** [ˈdʒi:niaɪ] n., *pl. of* **genius** джы́ны, до́брыя або́ злыя ду́хі

**genital** [ˈdʒenɪtəl] adj. дзетаро́дны, палавы́

**genitals** [ˈdʒenɪtəlz] n., pl. палавы́я о́рганы, геніта́ліі

**genitive** [ˈdʒenətɪv] n. ро́дны склон

**genius** [ˈdʒi:niəs] n., pl. **geniuses** 1. ге́ній -я *m.*, генія́льнасьць *f.*: ***a man of genius*** генія́льны чалаве́к. 2. генія́льны чалаве́к, ге́ній -я *m.* 3. вялі́кая здо́льнасьць, таленаві́тасьць, геніяльнасьць *f.*: ***to have a genius for acting*** мець здо́льнасьць да актóрства. 4. асаблі́вы хара́ктар *або́* дух (*асо́бы, на́цыі, ча́су, мо́вы*). 5. до́бры (злы). 6. (pl. **genii**) дух -а *m.*, до́бры дух або́ злы́, які́я ўплыва́юць на жыцьцё чалаве́ка

**genocide** [ˈdʒenəsaɪd] n. генацы́д -у *m.*, нарадагу́бства *n.*

**genteel** [dʒenˈti:l] adj. 1. які́ нале́жыць да вышэ́йшага грама́дзтва; сьве́цкі, шляхо́цкі, Informal па́нскі. 2. ве́тлівы, до́бра вы́хаваны; мо́дны; элега́нтны

**gentility** [dʒenˈtɪləti] n., pl. **-ties** 1. радаві́тасьць *f.*; прынале́жнасьць да арыстакра́тыі *або́* вышэ́йшае кля́сы. 2. до́брыя мане́ры. 3. элега́нтнасьць, даліка́тнасьць *f.*

**gentle** [ˈdʒentəl] – adj. **-tler, -tlest** 1. лаго́дны; даліка́тны: ***a gentle tap*** далікатны стук. 2. мя́ккі, ці́хі: ***a gentle sound*** ці́хі гук. 3. памяркоўны, ме́рны, лаго́дны: ***gentle heat*** памяркоўная цеплыня́; ***a gentle slope*** лаго́дны схіл. 4. ласка́вы; ве́тлы, пры́язны, лаго́дны: ***a gentle disposition*** лаго́дны, ве́тлы хара́ктар. 5. шляхе́цкі, шляхе́цкага ро́ду. 6. зна́тны; до́бры; пале́пшаны: ***gentle birth*** зна́тнае пахо́джаньне; ***gentle blood*** до́брая паро́да

– n., Archaic асо́ба зна́тнага пахо́джаньня або́ высо́кага ра́нгу

– v.t. 1. аб'яжджа́ць (*маладо́га каня́*). 2. рабі́ць больш памяркоўным (*пагля́ды*), зьмякча́ць

**gentlefolk** [ˈdʒentəlfoʊk] n., pl. 1. шля́хта *f.*, дывара́нства, магна́цтва *n.*

**gentleman** [ˈdʒentəlmən] n., pl. **-men** 1. джэнтэльмэ́н -а *m.*; спада́р -а́ *m.* 2. до́бра вы́хаваны чалаве́к. 3. ***ве́тлівая фо́рма называ́ньня ко́жнага мужчы́ны.*** 4. (*ране́й*) шля́хціц, дывара́нін, магна́т -а *m.*

**gentlemen** спадары́ (*ве́тлівы зваро́т да мужчы́нскага тава́рыства*)

**gentlemanliness** [ˈdʒentəlmənlinəs] n. джэнтэльмэ́нства *n.*, карэ́ктнасьць *f.*

**gentlemanly** [ˈdʒentəlmənli] – adj. ве́тлівы; до́бра ўзгадава́ны, джэнтэльмэ́нскі (*мане́ры*)

– adv. па-джэнтэльмэ́нску, шляхо́тна; карэ́ктна; элега́нтна (*апра́нуты*)

**gentleman's** or **gentlemen's agreement** 1. джэнтэльмэ́нскае пагадне́ньне, ву́сная ўмо́ва без фарма́льнасьцяў. 2. няпі́саная дамо́ўленасьць гру́пы асо́баў не пуска́ць і́ншых у сваё ко́ла

**gentleness** [ˈdʒentəlnəs] n. далікатнасьць, лаго́днасьць, мя́ккасьць *f.*; дабрыня́ *f.*

**gentle** or **gentler sex** жанчы́ны; жано́чы род, coll.

**gently** [ˈdʒentli] adv. 1. далі́катна, лаго́дна; чу́ла, пяшчо́тна; мя́кка. 2. пасту́по́ва

**genuine** [ˈdʒenjuɪn] adj. 1. сапраўдны́, аўтэнты́чны (*тэкст*); праўдзі́вы (*крыні́ца*), непадро́блены. 2. шчы́ры, нефальшы́вы

**genus** [ˈdʒi:nəs] n., pl. **genera** or **genuses** 1. Bot., zool. род -у *m.* 2. гату́нак -ку, сорт -у *m.*

**geodesic** [ˌdʒi:əˈdesik] adj. 1. геадэзі́чны (*вымярэ́ньні, прыла́ды*). 2. які́ ма́е фо́рму вы́пукласьці зямно́е ку́лі

**geodesy** [dʒiˈɑːdəsi] n. геадэ́зія *f.*
**geographer** [dʒiˈɑːgrəfər] n. гео́граф -а *m.*
**geographic** [ˌdʒiːəˈgræfɪk] or **geographical** [ˌdʒiːəˈgræfɪkəl] adj. геаграфі́чны
• ***geographic axis*** зямна́я вось
• ***geographical coordinate*** геаграфі́чная каардына́та
**geography** [dʒiˈɑːgrəfi] n., pl. **-phies** геагра́фія *f.*
**geologic** [ˌdʒiːəˈlɑːdʒɪk] or **geological** [ˌdʒiːəˈlɑːdʒɪkəl] adj. геалягі́чны (*пэрыя́д, працэ́с*)
**geologist** [dʒiˈɑːlədʒɪst] n. гео́ляг -а *m.*
**geology** [dʒiˈɑːlədʒi] n. геалёгія *f.*
**geomagnetic axis** магні́тная вось (*зямлі́*): ***geomagnetic equator, pole*** магні́тны эква́тар, по́люс
**geometer** [dʒiˈɑːmətər] n. гео́мэтар -а *m.*
**geometric** [ˌdʒiːəˈmətrɪk] or **geometrical** [ˌdʒiːəˈmətrɪkəl] adj. геамэтры́чны
**geometrical progression** геамэтры́чная прагрэ́сія
**geometry** [dʒiˈɑːmətri] n., pl. **-tries** 1. геамэ́трыя *f.* 2. фо́рма *f.* (*будыні́ны*), мадэ́ль *f.*, канстру́кцыя *f.*
**Georgian** [ˈdʒɔːrdʒən] – adj. 1. грузі́нскі. 2. з эпо́хі анге́льскіх каралёў Джо́рджаў
– n. 1. ураджэ́нец *або́* жыха́р шта́ту Джо́рджыя ў ЗША. 2. грузі́н -а *m.* 3. грузі́нская мо́ва. 3. чалаве́к, асаблі́ва пісьме́ньнік з часо́ў пе́ршых чатыро́х анге́льскіх каралёў Джо́рджаў
**geranium** [dʒəˈreɪniəm] n. гера́нь *f.*
**germ** [dʒɜːrm] n. 1. мікро́б -а *m.*, бактэ́рыя *f.* 2. Biol. заро́д|ак -ка *m.*; эмбрыён -а *m.*; насе́ньне *n.*; за́вязь *f.* 3. палава́я клё́тка (*расьлі́наў, жывёлы*), гамэ́та *f.* 4. пача́так чаго́-н. наагу́л
**German** [ˈdʒɜːrmən] – adj. няме́цкі, герма́нскі
– n. 1. не́м|ец -ца *m.*, не́мка *f.*, жыха́р Няме́ччыны. 2. няме́цкая мо́ва
**German measles** адзёр адру́ *m.*, красну́ха *f.*
**Germanic** [dʒərˈmænɪk] adj. 1. няме́цкі. 2. герма́нскі: ***Germanic languages*** герма́нскія мо́вы
**Germanism** [ˈdʒɜːrmənˌɪzəm] n. 1. германі́зм -у *m.* (*у мо́ве*). 2. характэ́рная ры́са не́мцаў. 3. германафі́льства
**Germanize** [ˈdʒɜːrmənaɪz] – v.t. германізава́ць. 2. перакла́да́ць на няме́цкую мо́ву
– v.i. германізава́цца
**germinate** [ˈdʒɜːrmɪneɪt] – v.i. прараста́ць, прaро́стваць, пуска́ць па́расткі
– v.t. прaро́шчваць (*насе́ньне*)
**gerund** [ˈdʒerənd] n., Gram. геру́ндый
**gerundive** [dʒeˈrʌndɪv] n. герунды́|ў -ва *m.*
**gesticulate** [dʒeˈstɪkjəleɪt] v.i. жэстыкуля́ва́ць
**gesticulatingly** [dʒeˌstɪkjəˈleɪtɪŋli] adv. жэстыкулю́ючы, з жэ́стамі
**gesticulation** [dʒeˌstɪkjəˈleɪʃən] n. 1. жэстыкуля́цыя *f.* 2. жэст -у *m.*
**gesture** [ˈdʒestʃər] – n. 1. жэст -у *m.*; ру́хі рук, галавы́ *або́* це́ла: ***friendly gesture*** прыя́зны рух, жэст
– v.i. рабі́ць жэ́сты, ру́хі, жэстыкуля́ва́ць
**get** [get] – v.t., **got, got** or **gotten, getting** 1. атры́мваць; набыва́ць, раздабыва́ць; расстара́цца; нажыва́ць; дастава́ць (*і хваро́бу*): ***I got a new coat*** Я купі́ла (мне купі́лі) но́вае паліто́; ***We can get it for you*** Мы мо́жам даста́ць гэ́та для вас; ***to get bad cold*** захварэ́ць; мо́цна застудзі́цца. 2. зарабля́ць: ***She gets $5 per hour*** Яна́ зарабля́е 5 даля́раў за гадзі́ну. 3. зрабі́ць не́шта: ***He got his hair cut yesterday*** Учо́ра ён падстры́гся; ***She got her work done*** Яна́ зрабі́ла сваю́ пра́цу; ***I must get the curtains washed*** Я му́шу адда́ць памы́ць фіра́нкі. 4. рыхтава́ць, гатава́ць: ***to get dinner*** згатава́ць абе́д. 5. угаво́рваць, перако́нваць: ***We got John to come too*** Мы ўгавары́лі Янку, каб і ён прыйшо́ў. 6. Informal а) мець: ***I have got very little money*** У мяне́ ве́льмі ма́ла гро́шай. б) му́сіць, быць забавя́заным: ***We have got to win*** Мы му́сім вы́йграць. 7. даставя́ць, прыно́сіць: ***Get me a***

***chair*** прынясі́ мне крэ́сла; ***I got him to bed*** Я паклала яго́ ў ло́жак. 8. Informal а) трапляць (*пра ку́лю, снара́д*). б) забіва́ць, застрэ́ліць: ***to get a deer with a rifle*** застрэ́ліць казу́лю са стрэ́льбы. 9. перако́нваць, зага́дваць, уплыва́ць: ***He got it done*** Ён загада́ў гэ́та зрабі́ць. 10. Sl. разуме́ць: ***I don't get you*** Я вас не разуме́ю. 11. (*пра жывёлу*) нараджа́ць; прыво́дзіць. 12. Informal мець магчы́масьць, спраўля́цца: ***I didn't get to do it*** Я ня ме́ла магчы́масьці зрабі́ць гэ́та

– v.i. 1. прыхо́дзіць, прыяжджа́ць: ***We got home early last night*** Учо́ра мы ра́на прыйшлі дадо́му; ***Your letter got here yesterday*** Ваш ліст прыйшо́ў сюды́ ўчо́ра. 2. быць, рабі́цца: ***It is getting colder*** халаднее; ***Don't get nervous*** не нэрву́йся; ***to get old*** ста́рыцца, рабі́цца стары́м; ***to get angry*** злава́цца; ***to get better*** а) ачу́ньваць (*ад хваро́бы*). б) рабі́цца ле́пшым; ***to get married*** а) жані́цца (*пра мужчы́ну*), выхо́дзіць за́муж (*пра жанчы́ну*)

• ***get about*** а) шмат хадзі́ць *або́* е́зьдзіць. б) станаві́цца шыро́ка вядо́мым; пашыра́цца, разыхо́дзіцца (*пра ве́стку*)

• ***get across,*** Informal а) растлума́чыць, пераканаць

• ***get along*** а) пасо́ўвацца напе́рад. б) даць ра́ды, адо́лець, спра́віцца: ***to get along without food*** абыхо́дзіцца бязь е́жы. в) до́бра ме́цца, мець уда́чу; спраўля́цца з пра́цай, зада́ньнем. г). жыць у зго́дзе, ла́дзіць: ***They get along*** яны́ жыву́ць у зго́дзе

• ***get around*** а). *гл.* ***get about***. б) ашука́ць, абдуры́ць; зла́дзіць штуку *каму́*

• ***get around to*** знайсьці́ час на *што*

• ***get at*** а) прыбы́ць *куды́*, дабра́цца. б) даве́дацца, зразуме́ць: ***I cannot get at the meaning*** Я не магу́ зразуме́ць зна-чэ́ньня. в) гавары́ць, кірава́ць гу́тарку на *што*: ***What are you trying to get at?*** Што вы хо́чаце гэ́тым сказа́ць?

• ***get away*** а) адыйсьці́ся. б) уцячы́

• ***get away with,*** Informal а) уцячы́ са здабы́чай. б) вы́йсьці сухі́м з вады́ *або́* чы́стым, непакара́ным

• ***get back*** а) вярну́цца. б) памсьці́цца

• ***get behind*** падтры́мваць *каго́ чым*

• ***get by,*** Informal а) мінаць. б) перажыва́ць, перакіда́цца: ***to just get by in hard times*** то́лькі перакі́дацца ў цяжкі́ час

• ***get in*** а) захо́дзіць, сяда́ць (*у а́ўта*); прыбы́ць *куды́*. б) уклада́ць у *што*. в) звозіць (*се́на, збо́жжа*). г) ува-йсьці́ (*у сябро́ўства, у ву́зкія ко́лы*)

• ***get off*** а) зла́зіць; сыхо́дзіць; выся-да́ць: ***to get off the train*** высяда́ць зь цягніка́. б) здыма́ць (*паліто́*). в) уцячы́, уратава́цца; дапамагчы́ уцячы́. г) (*пра самалёт*) падыма́цца

• ***get on*** а) узье́хаць, узыйсьці́; узьле́зьці (*на гару́*). б) апрана́ць, адзява́ць; абува́ць (*чараві́кі*). в) мець по́сьпех, до́бра ме́цца: ***How is he getting on?*** Як ён ма́ецца? Як у яго́ спра́вы? г) ла́дзіць з *кім*. д) увайсьці (*у гады́*): ***to get on in years*** старэ́ць

• ***get out*** а) выхо́дзіць. б) выма́ць. в) уцячы́; памагчы́ уцячы́, вы́ратаваць. г) вы́даць, апублікава́ць (*кні́гу*). д) вы́ведаць, вы́знаць, вы́цягнуць: ***they tried to get out his secret*** яны́ стара́ліся вы́ведаць ад яго́ сакрэ́т. е) ста́цца вядо́мым: ***The news got out*** Наві-ну́ даве́даліся

• ***get over*** а) ачуня́ць (*ад хваро́бы*). б) перасі́ліць, перамагчы́ ў сабе́ (*страх, непако́й*). в) ско́нчыць, раскві́тацца: ***Let's get this over once and for all*** Ско́нчым з гэ́тым раз назаўсёды

• ***get round*** а) ашука́ць, перахітры́ць. б) схілі́ць на свой бок

• ***get set*** рыхтава́цца; рыхтава́ць

• ***get there*** дасягну́ць, дамагчы́ся пастаўленае мэ́ты, дайсьці́ свайго́

• ***get together,*** Informal а) зьбіра́ць; зьбіра́цца, сустрака́цца: ***Let's get together next week*** Дава́йце зьбярэ́мся на насту́пным ты́дні. б) прыйсьці́ да зго́ды

***• get up*** ўставáць а) з лóжка. б) стаць на нóгі. в) узыхóдзіць, узьбірáцца на гарý; сядáць (*у аўтóбус*)

**getaway** [ˈgetəˌweɪ] n., Informal 1. уцёкі *pl. only.* 2. пачáтак, старт спабóрніцтваў

**gewgaw** [ˈgju:gɔ:] – n. бліскýчыя дрóбязі, забáўкі; мішурá
– adj. прэтэнцыёзны

**geyser** [ˈgaɪzər] n. 1. гéйзэр -а *m.* 2. esp. Brit. награвáльнік вады́ (*для вáнны*)

**ghastly** [ˈgæstli] – adj. 1. стрáшны; жахлíвы, жýдасны. 2. блéдны, як сьмерць. 3. Informal страшэ́нны, вéльмі благí: ***a ghastly failure*** страшэ́нная няўдáча
– adv. 1. страшэ́нна, жахлíва. 2. Informal вéльмі блáга

**gherkin** [ˈgɜ:rkɪn] n. карнішóн -а *m.* (*гатýнак малы́х гуркóў*)

**ghetto** [ˈgetoʊ] n., pl. **-os** гéта, *indecl.*

**ghost** [goʊst] n. 1. здань *f.*, дух -а *m.* 2. цень -ю *m.*; лёгкі сьлед, намíнак: ***the ghost of a smile*** ледзь бáчная ўсьмéшка

***• give up the ghost*** сканáць

**ghostly** [ˈgoʊstli] adj. 1. як здань; бляды́, блéдны; цьмя́ны, няя́сны. 2. пра дýхаў: ***ghostly legends*** легéнды пра дýхаў

**ghost writer** фактычны áўтар (*які́ піша для другóга намінáльнага áўтара*)

**ghoul** [gu:l] n. 1. крывасмóк -а *m.*, вампíр -а *m.*, ваўкалáк -а *m.* 2. чалавéк, які раскрадáе магíлы

**giant** [ˈdʒaɪənt] – n. 1. вóлат -а *m.*; асíлак -ка *m.*; гігáнт -а *m.* 2. чалавéк, які перасягáе íншых інтэлéктам, здóльнасьцямі, гéніі; тытáн: ***giants in the field of science*** вóлаты ў галінé навýкі. 3. чалавéк вялíкага рóсту й сíлы, гігáнт -а *m.*
– adj. 1. велічэ́зны, велізáрны, вялíзны; асíлкаў (*сíла, рост*). 2. які перасягáе іншых, выдáтны, надзвычáйны; гігáнцкі

**giantess** [ˈdʒaɪəntəs] n. вóлатка *f.*; жанчы́на-вóлат

**gibber** [ˈdʒɪbər] – v.i. 1. гаварыць абы́ што, малóць; балабóніць. 2. гаварыць хýтка і невырáзна, балбатáць, сакатáць
– n. балбатня́ *f.*, трапáньне языкóм

**gibbet** [ˈdʒɪbɪt] – n. шы́беніца *f.*
– v.t. вéшаць на шы́беніцы. 2. выстаўля́ць на публíчны пóсьмех (*у прэ́се*)

**gibe** [dʒaɪb] **gibed, gibing,** – v. 1. насьміхáцца; кпіць; зьдзéкавацца
– n. насьмéшка *f.*, кпíны *pl. only*, зьéдлівая заўвáга

**gibing** [ˈdʒaɪbɪŋ] adj. насьмéшлівы, зьдзéклівы, пóўны кпíнаў

**giblet** [ˈdʒɪblət] n., pl. **giblets** курыныя, гусíныя вантрóбы

**giddiness** [ˈgɪdinəs] n. млóснасьць, млосьць *f.*; зáмарак -у *m.*, замарачэ́ньне *n.*, тóе, што выклікáе зáмарак

**giddy** [ˈgɪdi] adj. 1. млóсны: ***I feel giddy*** у мянé замарóчваецца ў галавé; мне млóсна. 2. легкадýмны, непавáжны. 3. недарэ́чны, бессэнсóўны, бязглýзды; абсýрдны

**gift** [gɪft] – n. 1. падарýнак -ка *m.*, дар -у *m.* 2. здóльнасьць *f.*, тáлент -у *m.*, дар -у *m.*: ***a gift of painting*** здóльнасьць малявáць
– v.t. 1. дарыць; даравáць. 2. дарыць, абдóрваць (*напр. малады́х*)

**gifted** [ˈgɪftɪd] adj. таленавíты, здóльны

**gigantic** [ˌdʒaɪˈgæntɪk] adj. 1. асíлкаў: ***a man of gigantic build*** мужчы́на з асíлкавым склáдам. 2. велізáрны, велічэ́зны, гігáнцкі

**giggle** [ˈgɪgəl] – v.i. хіхíкаць
– n. хіхíканьне *n.*, сьмéшкі *pl. only*

**gild I** [gɪld] v.t. 1. залацíць, а) пакрывáць пазалóтай. б) фарбавáць у залацíсты кóлер. в) Informal прыхарóшваць, прыкрáшваць: ***gild the pill*** падсаладзíць гóркую пілюлю

**gild II** [gɪld] n. *гл.* **guild**

**gilded** [ˈgɪldɪd] adj. 1. залачóны, пазалóчаны. 2. залаты́ (*багáты*): ***the gilded youth*** залатáя мóладзь

**gills** [gɪlz] n. 1. шчэ́лепы *pl.* 2. другí падбарóдак. 3. барóдка ў пéўня

**gilt** [gɪlt] v., *pt. and pp. of* **gild,** n. пазало́та *f.*

**gimlet** [ˈgɪmlət] – n. сьве́рдзел -а *m.*, сьвярдзёлlак -ка *m.*
– v.t. 1. сьвідрава́ць. 2. пільна ўгляда́цца ў *каго́-што*, сьвідрава́ць по́зіркам

**gin I** [dʒɪn] n. джын -у *m.*

**gin II** [dʒɪn] – n. 1. баво́ўнаачышча́льная машы́на. 2. калаўро́т -а *m.*, лябёдка *f.* (*машы́на*). 3. сіло́ *n.*, сілlо́к -ка́ *m.*, па́стка *f.*
– v.t. 1. ачышча́ць баво́ўну. 2. лаві́ць сіло́м (*пту́шак, жывёлін*)

**ginger** [ˈdʒɪndʒər] – n. 1. імбі́р -у *m.* 2. прыпра́ва зь імбі́ру. 3. Informal жы́васьць, жва́васьць, вёрткасьць; руха́васьць, энэргі́чнасьць *f.*
– adj. чырванава́та- або́ бурава́тажо́ўты (*ко́лер*)
– v.t. 1. запраўля́ць імбі́рам. 2. Informal ажыўля́ць

**ginger beer** імбі́рнае піва (*безалькаго́льны напо́й*)

**gingerbread** [ˈdʒɪndʒərbred] n. 1. імбі́рны пе́рнік. 2. безгусто́ўныя, тандэ́тныя аздо́бы (*у архітэкту́ры*)

**gingerly** [ˈdʒɪndʒərli] adv. 1. ве́льмі асьцяро́жна, асьцерага́ючыся. 2. Obsol. далікá́тна, мане́рна: ***to dance gingerly*** танцава́ць мане́рна

**Gipsy** or **gipsy** [ˈdʒɪpsi] – n., pl. **-sies,** esp. Brit. **Gypsy** цыга́н -а *m.*, цыга́нка *f.*
– adj. цыга́нскі

**giraffe** [dʒəˈræf] n. жыра́фа *f.*

**gird I** [gɜ:rd] v.t. **girt** or **girded** 1. падпяра́зваць (-ца); апяра́зваць (-ца). 2. абкружа́ць, абгаро́джваць, апяра́зваць (*лес, по́ле*). 3. адзява́ць; надзяля́ць (*уладай*)

**gird II** [gɜ:rd] v. насьміха́цца; кпіць

**girder** [ˈgɜ:rdər] n. апо́рная бэ́лька (*у буды́нках, для сто́лі*), тра́ма *f.*; (*для да́ху*) кла́дзіна *f.*; (*для мо́сту*) падва́ліна *f.*

**girdle** [ˈgɜ:rdəl] – n. 1. по́яс, пая́с -а *m.* 2. жано́чы гарсэ́т
– v.t. 1. акружа́ць, апяра́зваць. 2. кальцава́ць (*пту́шак, ры́бы, дрэ́вы*)

**girdling** [ˈgɜ:rdlɪŋ] n. кальцава́ньне *n.* (*дрэ́ваў*)

**girl** [gɜ:rl] n. 1. дзяўчы́на *f. dim.* дзяўчы́нка *f.*, дзяўчо́ *n.* 2. служа́нка *f.*, ха́тняя рабо́тніца. 3. Informal сымпа́тыя, лю́бая *f.* 4. Informal жанчы́на *f.* (*усяля́кага ве́ку*). 5. Informal маладая са́мка
• ***girl friend*** сымпа́тыя *f.*; сябро́ўка, пры́яцелька *f.*

**girl guide**, Brit. ска́ўтка *f.*

**girlhood** [ˈgɜ:rlhʊd] n. дзяво́чыя гады́, дзяво́цтва *n.*

**girlie** [ˈgɜ:rli] n., Informal дзяўчы́нка, дзяўчы́начка *f.*, дзяўчо́ *n.*

**girlish** [ˈgɜ:rlɪʃ] adj. 1. дзяво́чы, дзяво́цкі. 2. хто трыма́ецца, як дзяўчы́на

**girl scout** ска́ўтка *f.*

**girth** [gɜ:rθ] n. 1. абхо́п, паме́р -у *m.* (*дрэ́ва*). 2. папру́га *f.*

**gist** [dʒɪst] n. су́тнасьць спра́вы

**give** [gɪv] **gave, given,** – v.t. 1. дава́ць, аддава́ць: ***He gave me his watch*** Ён даў мне свой гадзі́ньнік; ***to give one's word*** даць сло́ва. 2. дары́ць, ахвяро́ўваць: ***He gave freely to the hospital*** Ён шмат ахвяро́ўваў на шпіта́ль. 3. уруча́ць; перадава́ць: ***give regards*** перадава́ць прывіта́ньні. 4. ***to give a lecture*** прачыта́ць ле́кцыю; ***to give trouble*** рабі́ць кло́пат
– v.i. 1. дава́ць. 2. паддава́цца (*на́ціску, напо́ру*) 3. датарно́ўвацца да *чаго́*, прызвыча́йвацца
• ***give away,*** Informal а) адда́ць (*і за́муж*). б) вы́даць сакрэ́т, прагавары́цца
• ***give back*** аддава́ць (*узя́тае*) варо́чаць, вярта́ць
• ***give in*** а) саступа́ць, паддава́цца. б) уруча́ць
• ***give or take*** прыблі́зна.
• ***give off*** вылуча́ць, выдзяля́ць (*пах, газ*)
• ***give out*** а) раздава́ць, разьдзяля́ць. б) распаўсю́джваць, падава́ць да ве́дама
• ***give up*** а) перада́ць. б) зда́цца, адступа́ць, адмо́віцца ад *чаго́* в) пакі-

нуць (*пра́цу*), кі́нуць (*прывы́чку*). г) стра́ціць надзе́ю

**give-and-take** [ˌgɪvənˈteɪk] n. 1. ро́ўны, справядлі́вы абме́н. 2. кампрамі́с -у *m.*

**given** [ˈgɪvən] adj. 1. да́дзены, пада́дзены: ***example given above*** пада́дзены вышэ́й пры́клад. 2. схі́льны, які́ ма́е звы́чай

**given name** імя́

**giver** [ˈgɪvər] n. той, хто дае́; ахвярада́вец -ўца *m.*

**glacé** [glæˈseɪ] adj.1. зацукрава́ны (*фрукт*), глязурава́ны (*піро́г*). 2. замаро́жаны. 3. паліва́ны (*по́суд*), глянцава́ны (*папе́ра*)

**glacial** [ˈgleɪʃəl] adj. 1. ледавіко́вы. 2. ледзяны́, абледзяне́лы; лядо́вы (*пла́ваньне*). 3. ве́льмі хало́дны, хало́дны як лёд, ледзяны́. 4. ве́льмі паво́льны. 5. Chem. крышталізава́ны

**glacial period** ледавіко́вы пэры́яд

**glacier** [ˈgleɪʃər] 1. ледаві́к -а́ *m.* 2. лядні́к ледніка́ *m.,* гле́тчар -а *m.* (*паўзу́чы лёд у гара́х*)

**glad** [glæd] – adj. **gladder, gladdest** 1. рады, задаво́лены: ***to be glad*** це́шыцца; ра́давацца; ***I am glad to see you*** Я ра́ды вас ба́чыць. 2. ра́дасны, пры́емны: ***The glad news*** пры́емная ве́стка

– v.t., Archaic це́шыць, ра́даваць

– v.i. це́шыцца, быць задаво́леным

**gladden** [ˈglædən] v. 1. це́шыц|ь (-ца), ра́даваць|ь (-ца). 2. весялі́ць

**glade** [gleɪd] n. 1. паля́на, прага́ліна *f.* (*у ле́се*). 2. балаці́стая нізі́на

**glad eye**, Sl. залётны по́зірк

**gladly** [ˈglædli] adv. задаво́лена; ве́села; ахво́ча, ахво́тна; з пры́емнасьцю, з ра́дасьцю, з ахво́тай

**gladness** [ˈglædnəs] n. ра́дасьць, задаво́ленасьць *f.*

**glamor**, Brit. **glamour** [ˈglæmər] – n. 1. прыва́бны, спаку́сьлівы чар; тае́мная захапля́льнасьць. 2. ча́ры *pl. only*

– v.t. 1. зачаро́ўваць, заваро́жваць; ачаро́ўваць; палані́ць; прыва́бліваць. 2. кі́даць ча́ры, зачаро́ўваць

**glamorous**, Brit. **glamourous** [ˈglæmərəs] adj. чаро́ўны, захапля́льны; прыва́бны, прыва́бліву, прына́дны; спаку́сьлівы

**glance** [glæns] – n. 1. бе́глы по́зірк; по́гляд -у *m.* 2. бліск -у *m.*, блі́сканьне, зіхаце́ньне *n.*

– v.i. 1. пазіра́ць; заглядаа́ць. 2. блі́скаць, зіхаце́ць. 3. адбіва́цца (*пра гук, про́мень*)

– v.t. 1. кі́даць бе́глы по́зірк. 2. уба́чыць мімахо́дзь

**gland** [glænd] n. зало́за *f.*

**glanders** [ˈglændərz] n. сап -у *m.* (*ко́нская хваро́ба*)

**glare I** [gler] – n. 1. адсьве́т, во́дбліск -у *m.*; зы́ркае асьляпля́льнае сьвятло́. 2. лю́ты і зло́сны по́зірк. 3. празьме́рная бліску́часьць напака́з

– v.i. 1. асьляпля́льна блішчэ́ць. 2. глядзе́ць лю́та і са зло́сьцю. 3. кі́дацца ў во́чы (*пра я́ркі ко́лер*)

**glare II** [gler] n. 1. сьве́тлая, гла́дкая паве́рхня: ***glare ice*** гла́дкі, бліску́чы лёд

**glaring** [ˈglerɪŋ] adj. 1. зы́ркі, я́ркі. 2. які́ глядзі́ць лю́та і са зло́сьцю. 3. зана́дта страка́ты. 4. Informal які́ кі́даецца ў во́чы; відаво́чны: ***a glaring fault*** відаво́чная, гру́бая памы́лка

**glass** [glæs] – n. 1. шкло *n.* 2. шкля́нка, ча́рка *f.* 3. лю́стра *n.* 4. шкляны́я рэ́чы *або́* по́суд. 5. шы́ба, шы́біна *f.*

– v.t. 1. шклі́ць (*во́кны*); трыма́ць *што* пад шклом або́ ў цяплі́цы. 2. адбіва́ць (*як у лю́стры*). 3. наво́дзіць люстра́ны гля́нец, глянцава́ць

– adj. 1. шкляны́ (*по́суд*). 2. зашклё́ны: ***a glass door*** зашклёныя дзьве́ры

• ***glasses*** акуля́ры *pl. only.*

**glass blower** гу́тнік -а *m.*

**glass blowing** гу́тніцтва *n.* (выдзіма́ньне шкла)

**glass case** вітры́на *f.*

**glass eye** штучнае шкляно́е во́ка

**glasshouse** [ˈglæshaʊs] n. 1. парні́к -а́ *m.*, цяплі́ца, аранжарэ́я *f.* 2. гу́та *f.*, шкляны́ заво́д

**glasslike** [ˈglæslaɪk] adj. шкляні́сты; я́сны, празры́сты (*як шкло*)

**glass paper** шкляна́я папе́ра, нажда́к -у́ *m.*

**glassware** [ˈglæswer] n. шкляны́я вы́рабы

**glass wool** шкляна́я ва́та

**glasswork** [ˈglæswз:rk] n. 1. вы́раб шкла *або́* шкляны́х прадме́таў. 2. шкляны́я вы́рабы. 3. шкле́ньне во́кнаў; глянцава́ньне, паліва́ньне, глязурава́ньне *n.*

**glassworks** [ˈglæswз:rks] n. гу́та *f.*, шкляны́ заво́д

**glassy** [ˈglæsi] adj. 1. люстраны́, гла́дкі; празры́сты. 2. цьмя́ны; вя́лы; нежывы́: ***glassy eyes*** а) во́чы зь вя́лым, тупы́м по́зіркам. б) засты́лыя, шкляны́я во́чы (*паме́рлага*)

**glaze** [gleɪz] – v. 1. шклі́ць, ашклі́ць, зашклі́ць (*акно́, карці́ну*), устаўля́ць шкло (*у акно́*). 2. паліва́ць (*ганча́рныя вы́рабы*), глязурава́ць (*парцаля́ну, цуке́ркі*), глянцава́ць папе́ру
– n. 1. а) палі́ва *f.* б) лёд (*на хо́дніку*). 2. ***cooking glaze*** глязу́ра *f.* 3. галалёд -у *m.*, галалёдзіца *f.*

**glazier** [ˈgleɪʒər] n. шкляр -а́ *m.*

**glazing** [ˈgleɪzɪŋ] n. 1. шкле́ньне *n.* (*во́кнаў*), шкло, шы́бы для шкле́ньня. 2. палі́ва, глязу́ра *f.* 3. паліва́ньне, глязурава́ньне, глянцава́ньне *n.*; палі́ўка, глязуро́ўка, глянцо́ўка *f.*

**gleam** [gli:m] – n. 1. бліск -у *m.*, праме́нь сьвятла́; слабо́е сьвятло́. 2. про́бліск -у *m.* (*надзе́і, со́нца*)
– v.i. 1. сьвяці́цца, ясьне́ць. 2. міга́ць, мігаце́ць, мігце́ць (*пра зо́ркі*). 3. праблі́скваць, блі́скаць імгне́нна

**glean** [gli:n] v. 1. зьбіра́ць калась́і на по́лі (*пасьля́ жніва́*). 2. зьбіра́ць адно́ па адны́м (*фа́кты, ве́сткі*)

**glee** [gli:] n. 1. ра́дасьць, весяло́сьць *f.*; асало́да *f.* 2. пе́сьня для трох ці бо́льш галасо́ў

**glen** [glen] n. мала́я, ву́зкая лагчы́на, лагчы́нка *f.*

**glib** [glɪb] adj. гаварлі́вы, гаварккі́, гла́дкі на язы́к: ***glib excuses*** гла́дкія адгаво́ры

**glide** [glaɪd] – v.i. 1. ру́хацца лёгка й пла́ўна; сьлі́згаць, ко́ўзацца; сьлі́згаць, плыць (*па вадзе́*). 2. міна́ць паво́лі *або́* няўзна́к: ***The years glided past*** гады́ міна́лі няўзна́к. 3. плянірава́ць, пла́ўна зьніжа́цца
– n. 1. пла́ўны, лёгкі рух. 2. плянірава́ньне *n.*, пла́ўнае зьніжэ́ньне самалёта
• ***glide into*** пла́ўна, паступо́ва перахо́дзіць з аднаго́ ста́ну ў і́ншы

**glider** [ˈglaɪdər] n. плянёр -а *m.*

**glimmer** [ˈglɪmər] – n. 1. мігце́ньне *n.*, слабо́е мігатлі́вае сьвятло́. 2. няя́снае ўяўле́ньне, ду́мка. 3. слабы́ про́бліск (*надзе́і*)
– v.i. 1. мігце́цца; міга́ць. 2. мільгану́ць (*пра ду́мку, надзе́ю*)
• ***go glimmering*** гі́нуць, прапада́ць; разбура́цца

**glimpse** [glɪmps] – n. 1. мімалётнае ба́чаньне: ***to catch a glimpse of*** паба́чыць мімахо́дзь; ***at a glimpse*** на пе́ршы по́гляд. 2. про́бліск -у *m.* (*ра́дасьці*)
– v.t. паба́чыць бе́гла, паба́чыць мімахо́дзь
– v.i. 1. бе́гла зірну́ць, зазірну́ць (*у кні́гу*). 2. сла́ба сьвяці́ць, мігце́цца

**glint** [glɪnt] – v.i. 1. сьвяці́цца (*пра со́нца*); блі́снуць; зіхаце́ць; ясьне́ць. 2. ху́тка прано́сіцца, ху́тка ру́хацца
– n. 1. блеск, бляск -у *m.*; бліск -у *m.* (*у вача́х*). 2. я́снасьць *f.*

**glisten** [ˈglɪsən] – v.i. блішчэ́ць; зьзяць; прамяне́ць; іскры́цца
– n. зы́ркі, я́ркі блеск, зьзя́ньне *n.*

**glitter** [ˈglɪtər] – v.i. 1. пераліва́цца, ясьне́ць, зьзяць; іскры́цца. 2. блішчэ́ць
– n. 1. зы́ркае, асьляпля́льнае сьвятло́, зьзя́ньне *n.* 2. бляск, шык -у *m.*, раско́ша *f.*

**glittering** [ˈglɪtərɪŋ] – adj. бліску́чы, блішча́сты; зіхатлі́вы, зіхо́ткі, асьляпля́льны
– n. зьзя́ньне *n.*

**gloat** [glout] v.t. 1. (over) е́сьці, паглына́ць вачы́ма; злара́днічаць; це́шыц-

ца самому сабе: ***The miser gloated over his gold*** Скнара паглынаў вачыма сваё золата

**global** [ˈgloubəl] adj. 1. сусьветны: ***global unrest*** сусьветны неспакой. 2. усеагульны, глябальны. 3. які мае форму шару, шарападобны

**globe** [gloub] – n. 1. куля *f.*, шар -а *m.*, сфэра *f.*, зямная куля. 2. зямля *f.*, сьвет -у *m.* 3. плянэта *f.*, нябеснае цела. 4. глёбус -а *m.*

– v. прымаць форму шара, надаваць форму шара

**globetrotter** [ˈgloubˌtrɑ:tər] n. кругасьветны падарожнік; чалавек, які падарожнічае па сьвеце

**globular** [ˈglɑ:bjələr] adj. 1. шарападобны; круглы, сфэрычны. 2. які складаецца з шарападобных часьцінак

**globule** [ˈglɑ:bju:l] n. шарык -а *m.*, кропелька *f.*: ***globules of sweat*** кропелькі поту.

**gloom** [glu:m] – n. 1. а) змрочнасьць, панурасьць *f.* б) маркота *f.*, сум -у, смутак -ку *m.*, журба *f.*, змрочны настрой. 2. цемра, цемрадзь, цемрань, цемень, цьма *f.* 3. змрочнае месца, морак, змрок -у *m.* 4. прыгнечаны выгляд

– v.i. 1. цямнець; засмучацца. 2. чуцца прыгнечаным *або* няшчасным. 3. мець смутны, маркотны *або* змрочны выгляд

– v.t. 1. засмучаць, прыгнятаць, рабіць змрочным. 2. прадстаўляць *што* ў цёмных фарбах

**gloomy** [ˈglu:mi] adj. 1. сумны, маркотны, невясёлы; панура, хмурны (*пра восень*); у змрочным настроі. 2. цёмны, змрочны (*зімовы дзень*). 3. прыгнятальны; які абезнадзейвае *або* адбівае ахвоту

**glorification** [ˌglɔ:rɪfɪˈkeɪʃən] n. 1. услаўленьне, праслаўленьне, усхваленьне *n.* 2. урачыстае адзначэньне, ушанаваньне *n.*

**glorified** [ˈglɔ:rɪfaɪd] adj. 1. услаўлены, праслаўлены; усхвалены. 2. апеты (*у песьнях, вершах*)

**glorify** [ˈglɔ:rɪfaɪ] v.t. **-fied, -fying** 1. услаўляць, праслаўляць, усхваляць; апяваць (*у песьнях, вершах*). 2. славіць, пакланяцца (*Богу*); хваліць. 3. упрыгожваць; праясьняць, рабіць ясным (*неба*)

**glorious** [ˈglɔ:riəs] adj. 1. слаўны, славуты; праслаўлены; выдатны (*пра падзею*). 2. які дае славу; пачэсны. 3 пышны, велічны; дзівосны, цудоўны; вельмі прыемны

**glory** [ˈglɔ:ri] – n., pl. **-ries** 1. слава *f.*; вялікая пахвала й гонар. 2. пышнасьць *f.*, хараство *n.*, краса *f.* 3. німб -а *m.*, арэол -у *m.*, зьзяньне *n.*

– v.i. ганарыцца, радавацца

• ***go to glory*** памерці.

**gloss I** [glɑ:s] – n. 1. глянец -цу *m.* а) бляск -у *m.* (*начышчанай адпаліраванай паверхні*). б) беззаганны выгляд, вонкавы бляск

– v.t. 1. наводзіць бляск, глянцаваць. 2. загладжваць (*нешта няправільнае*)

**gloss II** [glɑ:s] n. 1. глёса *f.* (*тлумачэньне незразумелага слова ці выразу на палях*): ***glosses in Skaryna's texts*** глёсы ў Скарынавых тэкстах. 2. падрадковы пераклад, глясарый -я *m.* 3. наўмысна перакручаная *або* фальшывая інтэрпрэтацыя

**glossary** [ˈglɑ:səri] n., pl. **-ries** 1. глясарый -я *m.*, тлумачальны слоўнік малавядомых словаў, звычайна старажытнага тэксту; глёсы

**glossy** [ ˈglɑ:si] – adj. гладкі і бліскучы; паліраваны (*стол*), глянцаваны

– n., Informal здымак на глянцаванай паперы

**glove** [glʌv] n. 1. рукавіца, пальчатка *f.* 2. баксёрская рукавіца ***to fit like a glove*** дасканала пасаваць

• ***handle with kid gloves*** далікатна, абярэжна абыходзіцца

**glow** [glou] – n. 1. водбліск, блеск -у *m.*, зарава *n.* (*ад пажару, заходу сонца*). 2. напал жару (*у печы*). 3. румянец -цу *m.*: ***the glow of health on his cheeks*** здаровы румянец на ягоных

шчóках. 4. запáл -у *m.*, гарáчае пачуцьцё: ***a glow of interest or excitement*** запáл зацікáўленасьці *абó* ўзбу́джанасьці

• ***the glow of sunset*** вячэ́рняя зарá

– v.i. 1. сьвяці́цца (*пра распáленае*). 2. гарэ́ць, палáць, палымнéць (*зы́ркім агнём абó пачуцьцём*): ***to glow with resentment*** палáць абурэ́ньнем, гнéвам. 3. чырванéць, пунсавéць (*пра шчóкі*)

**glower** [ˈglaʊər] v.i. глядзéць злóсна, спадылбá

**glowing** [ˈgloʊɪŋ] adj. 1. я́сны, сьвéтлы (*кóлер*); зы́ркі, асьляплáльны (*сóнца, пóлымя*). 2. распáлены дачы́рвана *абó* дабялá; румя́ны (*пра шчóкі*): ***a glowing tan*** залаці́ста-румя́ны загáр. 3. ахвóчы, пáлкі; жывы́, яскрáвы: ***a glowing description*** яскрáвае апісáньне

**glow-worm** [ˈgloʊwɜ:rm] n. сьвятля́к сьветлякá *m.*, сьветлячlóк -кá *m.*

**glucose** [ˈglu:koʊs] n. глюкóза *f.*

**glue** [glu:] – n. клеlй -ю *m.*

– v.t. 1. клéіць, заклéйваць (*канвэ́рт*), склéйваць. 2. Informal лíпнуць: ***He glued his eyes to the windows*** Ён не адрывáў пóзірку ад вóкнаў

**glum** [glʌm] adj. панýры, змрóчны

**glut I** [glʌt] – v.t. 1. перакóрмліваць. 2. насычáць, заспакóйваць (*смáгу, цікáвасьць*)

– v.i. 1. наядáцца дасы́та. 2. аб’ядáцца. 3. затавáрваць ры́нак

– n. 1. аб’ядáньне. 2. вялíкая кóлькасьць, пéрасыць *f.* 3. затавáрваньне ры́нку

**glut II** [glʌt] v.t. прáгна глытáць

**glutton** [ˈglʌtən] n. 1. абжóрlа -ы *m. & f.* 2. прагавíты, ненажэ́рны *абó* ненасы́тны чалавéк

**gluttonous** [ˈglʌtənəs] adj. абжóрысты, абжóрлівы; ненажэ́рны, ненасы́тны

**gluttony** [ˈglʌtəni] n., pl. **-nies** абжóрства *n.*, абжóрлівасьць, пражóрлівасьць *f.*

**glycerin** [ˈglɪsərɪn] – n. гліцэры́н -у *m.*

– adj. гліцэры́навы

**gnarl** [nɑ:rl] n. сук -á *m.*, сучlóк -кá *m.*; нáраст -у *m.* (*на дрэ́ве*)

**gnarled** [nɑ:rld] or **gnarly** [ˈnɑ:rli] adj. сукавáты, гузавáты, скры́ўлены (*пра дрэ́ва*)

**gnash** [næʃ] v.t. скрыгатáць (*зубáмі*)

**gnat** [næt] n. 1. мóшка *f., coll.* машкарá *f.*, гнюс -у *m.* 2. Brit. камáр -á *m.*

**gnaw** [nɔ:] v.t. 1. гры́зьці, прагрызáць. 2. разьядáць, паступóва падтóчваць. 3. гры́зьці, непакóіць, мýчыць (*пра страх*)

**gnawer** [ˈnɔ:ər] n. грызýн -á *m.*

**gnawing** [ˈnɔ:ɪŋ] – n. 1. грызéньне, разьядáньне, падтóчваньне *n.* 2. боль *f.* (*у жываце́*); загры́зlа -ы *f.*, пакýты сумлéньня

– adj. 1. які́ грызé, разьядáе, падтóчвае. 2. дакýчлівы (*пра боль*)

**gnome** [noʊm] n. гном -а *m.*

**go** [goʊ] **went, gone, going,** – v.i. 1. ісьці́; хадзíць: ***Do you go to school?*** Ці ты хóдзіш у шкóлу?; ***I must go*** Я мýшу ісьці́; ***Does your watch go well?*** Ці ваш гадзíньнік дóбра йдзе? 2. éхаць; éздзіць: ***to go to Belarus*** паéхаць у Беларýсь; ***to go by car*** éхаць áўтам; ***to go by plane*** ляцéць самалётам. 3. сягáць: ***His memory does not go back that far*** Ягóная пáмяць не сягáе так далёка. 4. мінáць, прахóдзіць (*пра час*): ***The pain has gone*** Боль суня́ўся; ***All hope is gone*** Прапáла ўся надзéя. 5. губíць, трáціць: ***His eyesight is going*** У ягó псуéцца зрок. 6. памірáць: ***His wife went first*** Ягóная жóнка памéрла ранéй. 7. ламáцца, псавáцца: ***The engine on the old car finally went*** Матóр у стары́м áўце канчаткóва папсавáўся. 8. станавíцца, рабíцца: ***to go bad*** псавáцца; ***to go blind*** сьлéпнуць; ***to go broke*** банкрутавáць; ***to go mad*** вар’яцéць, трáціць рóзум; ***to go to bed*** ісьці́ спаць

– n. 1. хаджэ́ньне *n.*, рух -у *m.*: ***the come and go of the waves (seasons)*** рух хвáляў (зьмéна пóраў гóду). 2. In-

formal мóда *f.*: ***all the go*** зусім па мóдзе. 3. стан спрáваў, станóвішча: ***This is a pretty go!*** Ну й спрáвы! 4. Informal спрóба *f.*: ***have a go at (doing)*** спрабавáць (што-н. рабіць). 5. Informal удáча *f.*: ***I made a go of it*** Удалóся мне

• ***go about*** а) займáцца *чым* б) хадзіць, пашырáцца (*пра вéсткі*)

• ***go along*** супрацóўнічáць; згаджáцца

• ***go along with*** згадзіцца на *што* з *кім*

• ***go around*** а) хадзіць зь мéсца на мéсца, разьязджáць. б) хапáць на ўсіх

• ***go at*** а) кінуцца на кагó-н. б) энэргічна ўзяцца за *што*

• ***go back on*** а) здрáдзіць. б) не стрымáць слóва; адыйсьціся, адмóвіцца ад *чагó*

• ***go behind*** дашýквацца запрáўднае прычыны

• ***go by*** а) мінáць (*пра час*); прахóдзіць паўз *што*. б) кіравáцца *чым*, трымáцца *чагó*. в) ісьці пад *чым*: ***go by the name*** быць вядóмым пад íмем. г) абыхóдзіцца без *чагó*: ***He cannot go by without food*** Ён ня мóжа абыхóдзіцца бязь éжы

• ***go down*** а) зыхóдзіць, зьяжджáць, спадáць (*пра схіл*); зьніжáцца (*пра тэмпэратýру, цанý*). б) прайгравáць; быць перамóжаным. в) трáціць гвалтóўнасьць, прыціхáць (*пра вéцер*). г) быць прынятым (*пра прапанóву*)

• ***go for*** а) імкнýцца да нéчага. б) быць за *што*, падтрымóўваць

• ***go into*** а) увайсьці, зьмясьціцца. б) унікáць, заглыбляцца, увахóдзіць (*глыбéй у спрáву*)

• ***go it alone*** дзéяць самастóйна, без дапамóгі

• ***go off*** а) пайсьці; выехаць, ад'éхаць. б) выстраліць, стрэліць (*пра пісталéт*). в) зыйсьці, перастáць. г) памéрці. д) адбыцца: ***The picnic went off as planned*** Пікнік адбыўся, як плянавáлася

• ***go on*** а) ісьці *абó* рабіць далéй, працягваць што-н. рабіць. б) цягнýцца, расьцягвацца. б) трымáцца, павóдзіць сябé. в) дзéіцца: ***What goes on here?*** Што тут дзéецца? г) *выкáзваючы недавéр*: ***Go on! Are you serious?*** Ідзі ты! Ты гэта сур'ёзна?

• ***go out*** а) выхóдзіць (*з дóму, з мóды*); бывáць у тавáрыстве, на вечарóх. б) пагáснуць. в) закóнчыцца, скóнчыцца. г) пайсьці на страйк. д) завáліцца, абвалíцца

• ***go over*** увáжліва пераглядáць, пералічваць, паўтарáць

• ***go through*** а) давóдзіць да канцá. б) перажыць; прайсьці, перанéсьці (*цяжкую апэрáцыю*). в) шнáрыць; шукáць. г) прайсьці, быць прынятым (*пра праéкт*)

• ***go together*** хадзіць, сымпатызавáць аднó аднамý, любíцца (*пра хлапцá й дзяўчыну*)

• ***go to pieces*** распадáцца на кавáлкі; не валóдаць сабóю

• ***go under*** а) зруйнавáцца, прапáсьці, гінуць. б) танýць (*пра карабéль*)

• ***go up*** а) узыхóдзіць; узьяжджáць; падымáцца (*пра барóмэтар*): ***The curtain goes up at 7 p.m.*** П'éса пачынáецца а 7-ай вéчара. б) будавáцца. в) павышáцца, расьці (*пра цэны*)

• ***go with*** а) хадзіць з *кім* (*заляцáцца*). б) пасавáць да *чагó*; падыхóдзіць: ***The hat goes well with the dress*** Капялюш дóбра пасýе да сукéнкі

• ***go without*** абыхóдзіцца без *чагó*

• ***It's a go*** Згóда (*пры таргавáньні*)

• ***It's no go,*** Informal а) Не згаджáюся, Гэтак ня пóйдзе. б) безнадзéйна, немагчыма

• ***let go*** а) выпусьціць. б) пакінуць (*рабіць*); адмóвіцца ад *кагó-чагó*

• ***on the go*** , Informal мóцна заняты; дзéйны; заўсёды ў рýху; непасéдлівы, мітусьлівы

**goad** [goud] – n. 1. кій кія *m.* (*для паганяньня жывёлы*). 2. узбуджáльнік -а *m.*, стымул -у *m.*; шпóра *f.*

– v.t. парóць; паганяць (*кíем, шпóрай*). 2. пабуджáць, прымушáць: ***Hunger goaded him to steal*** Гóлад прымýсіў ягó крáсьці

**goal** [goʊl] n. 1. мэ́та *f.*, намéр -у *m.*, пастáўленая задáча: ***goal of his life*** мэ́та ягóнага жыцьця́. 2. мяжá, цэль *f.* (*стральбы́*). 3. фíніш -у *m.* (*у спóрце*). 4. гол -а *m.* (*у гульні́*). 5. брáмнік -а, варатáр -á *m.* (*у спóрце*). 6. брáма, брáмка *f.*, варóты *pl.*

**goaler** [ˈgoʊlər] n., Can. брáмнік -а *m.*

**goalie** [ˈgoʊli] n. брáмнік -а *m.*

**goalkeeper** [ˈgoʊlˌki:pər] n. брáмнік -а *m.*

**goat** [goʊt] pl. **goats** or coll. **goat** 1. казá *f.*; казýля *f.* (*дзíкая*). 2. гóрны барáн. 3. Sl. ахвя́рны казёл

• ***get one's goat,*** Sl. дражнíць, злавáць *кагó* знарóк

**goatherd** [ˈgoʊthɜ:rd] n. казíны пастýх

**gobble** [ˈgɑ:bəl] v. éсьці хýтка й прáгна, глытáць вялíкімі кавáлкамі

• ***gobble up,*** Informal a) захапíць, схапíць. б) жэ́рці; пажырáць

**goblet** [ˈgɑ:blət] n. 1. чáра, чáрка *f.*, бакáл (*да вінá*). 2. Archaic кýблак -ка *m.*

**goblin** [ˈgɑ:blɪn] n. дамавíк -á *m.*

**God** [gɑ:d] n. Бог -а *m.*: ***Thank God*** Дзя́куй Бóгу; ***God knows where*** Бог вéдае куды́

**godchild** [ˈgɑ:dtʃaɪld] n., pl. **-children** хрэ́сьнік, хрóсьнік -а *m.*, хрэ́сьніца, хрóсьніца *f.*

**goddess** [ˈgɑ:des] n. 1. багíня *f.* 2. жанчы́на, якýю абагаўля́юць

**goddaughter** [ˈgɑ:dˌdɔ:tər] n. хрóсьніца *f.*

**godfather** [ˈgɑ:dˌfɑ:ðər] n. хрóсны бáцька

**god-fearing** [ˈgɑ:dˌfɪrɪŋ] adj. багабóйны, рэлігíйны

**godforsaken** [ˈgɑ:dfərˌseɪkən] adj. усíмі пакíнуты; закíнуты; няшчáсны

**godless** [ˈgɑ:dləs] adj. бязбóжны, нерэлігíйны

**godlessness** [ˈgɑ:dləsnəs] n. бязбóжнасьць *f.*

**godlike** [ˈgɑ:dlaɪk] adj. бóскі, богападóбны

**godmother** [ˈgɑ:dˌmʌðər] n. хрóсная мáці

**godparent** [ˈgɑ:dˌperənt] n. хрóсны бáцька (*для дзіця́ці*), кум -а *m.* (*для бацькóў*), хрóсная мáці (*для дзіця́ці*), кумá *f.* (*для бацькóў*)

**godsend** [ˈgɑ:dsend] n. Бóгам дáнае, Бóгам паслáнае

**godson** [ˈgɑ:dsʌn] n. хрэ́сьнік, хрóсьнік -а *m.*

**goggle** [ˈgɑ:gəl] v.i. 1. уталóпвацца, вытарэ́шчвацца, вылýплівацца. 2. касавýрыцца, скóса паглядзéць; варóчаць вачы́ма

• ***goggles*** n., pl. only ахóўныя акуля́ры

**going** [ˈgoʊɪŋ] adj. 1. бягýчы, цяпéрашні: ***the going interest rate*** цяпéрашні, бягýчы працэ́нт. 2. прывóдзіць у рух: ***to set the clock (the engine) going*** завéсьці гадзíньнік (матóр)

• ***get going,*** Informal пачынáць рабíць нéшта, брáцца за спрáву

• ***goings*** учы́нкі абó павóдзіны *pl. only*

**goiter** or **goitre** [ˈgɔɪtər] n. вальля́к -á *m.* (*хварóба*)

**gold** [goʊld] – n. 1. зóлата *n.* 2. залаты́я манэ́ты

– adj. 1. залаты́, з зóлата, як зóлата. 2. сьветла-жóўты, залацíсты (*пра кóлер*)

**gold-bearing** [ˈgoʊldˌberɪŋ] adj. залатанóсны (*пясóк, жы́ла*)

**gold diggings** залаты́я капáльні, пры́іскі

**golden** [ˈgoʊldən] adj. 1. залаты́, з зóлата: ***golden cross*** залаты́ кры́ж. 2. залатанóсны. 3. залацíсты, залаты́ (*кóлер*). 4. выдáтны, вéльмі вáжны, каштóўны: ***golden deeds*** высакарóдныя ўчы́нкі. 5. шчасьлíвы; багáты; квітнéючы, залаты́: ***golden age*** залаты́ век, залатáя парá

• ***golden anniversary*** залаты́я ўгóдкі

**gold field** залатанóснае радóвішча

**goldfinch** [ˈgoʊldfɪntʃ] n. шчыгóл -лá *m.*

**gold mine** капáльня зóлата

**goldsmith** [ˈgoʊldsmɪθ] n. залатáр -á *m.*, ювэлíр -а *m.*

**golf** [gɑ:lf] – n. гольф -а *m.*

– v.i. гуля́ць у гольф

**Golgotha** [ˈgɑ:lgəθə] n. 1. Галгóфа *f.* 2. мéсца пакýтаў

**gondola** [ˈgɑ:ndələ] n. 1. гандо́ла *f.* 2. кабі́на ў дырыжа́блі, аэраста́це

• ***gondola car*** тава́рны ваго́н-плятфо́рма для вугля́

**gone** [gɔ:n] – adj. 1. міну́лы. 2. які вы́браўся (*з кватэ́ры*): ***He's gone*** Ён вы́йшаў. 3. стра́чаны; прапа́шчы, безнадзе́йны; непапра́ўны: ***a gone case*** безнадзе́йная спра́ва. 4. мёртвы. 5. вы́даткаваны, патра́чаны (*пра гро́шы*). 6. зруйнава́ны; збанкрутава́ны. 7. слабы́, кво́лы: ***a gone feeling*** кво́лае пачуццё

• ***far gone*** запу́шчаны, застарэ́лы (*пра хваро́бу*); зашма́т ублы́таны, уця́гнуты ў *што*

• ***gone on,*** Informal закаха́ны

– v. *p.p. of* **go**

**gong** [gɔ:ŋ] n. 1. гонг -а *m.* (*музы́чны інструмэ́нт*). 2. гонг (*гукавы́ сыгна́л*)

**good** [gʊd] – adj. **better, best** 1. до́бры, до́бранькі: ***good boy (girl)*** малайчы́н|а -ы *m. & f.* 2. пра́вільны. 3. до́бры, ве́тлы, добразы́члівы; прыхі́льны, спага́длівы: ***a good word*** до́брае сло́ва. 4. до́бры, лю́дзкі (*чалаве́к*). 5. пэ́ўны, надзе́йны; крэдытаздо́льны. 6. запра́ўдны, непадро́блены (*гро́шы*). 7. кары́сны, памо́цны

• ***a good deal*** шмат; шмат які́я, мно́гія

• ***as good as*** ама́ль такса́ма, ама́ль

• ***for good*** назаўсёды; канча́льна, канчатко́ва

• ***good while*** до́сыць до́ўга

• ***make good*** а) варо́чаць, вярну́ць; апла́чваць, кампэнсава́ць; замяні́ць. б) вы́канаць, спо́ўніць

– n. 1. кары́сць *f.*, пажы́т|ак -ку *m.* 2. дабро́ *n.*

**good afternoon** до́бры дзень (*фо́рма прывіта́ньня або́ разьвіта́ньня папаўдні́*)

**good-by(e)** [ˌgʊdˈbaɪ] – interj., быва́й *sing.*; быва́йце, *pl. and polite.*

– n., pl. **good-byes** разьвіта́ньне *n.*

**good day** до́бры дзень (*фо́рма прывіта́ньня або́ разьвіта́ньня ўдзень*)

**good evening** до́бры ве́чар (*фо́рма прывіта́ньня або́ разьвіта́ньня ўве́чары*)

**good faith** сумле́ннасьць, шчы́расьць

**good-for-nothing** [ˌgʊdfərˈnʌθɪŋ] – adj. нічо́га ня ва́рты, ніку́ды ня ва́рты; нікчэ́мны

– n. гульта́|й -я́ *m.*, няго́днік -а *m.*

**Good Friday** Вялі́кая Пя́тніца.

**good-hearted** [ˌgʊdˈhɑ:rtəd] adj. шчо́дры; сардэ́чны, ува́жлівы

**good-humored**, Brit. **good-humoured** [ˌgʊdˈhju:mərd] adj вясёлы, прые́мны; у до́брым настро́і

**good-looking** [ˌgʊdˈlʊkɪŋ] adj. прыго́жы, ла́дны

**good luck** 1. шча́сьце, по́сьпех у жыцьці́; бага́цьце *n.* 2. Шчасьлі́ва! Памажы́ Бо́жа! (*пажада́ньне ўда́чы, шча́сьця*)

**good morning** до́брай ра́ніцы (*фо́рма прывіта́ньня або́ разьвіта́ньня ўра́ньні*)

**good-natured** [ˌgʊdˈneɪtʃərd] adj. до́брага хара́ктару; прые́мны; лаго́дны; нязло́сны

**goodness** [ˈgʊdnəs] – n. 1. дабрыня́ *f.* 2. дасканаласьць, дабрадзе́йнасьць *f.*

– interj. (*во́кліч зьдзіўленьня*) О, Бо́жа!: ***goodness knows*** Бог ве́дае, хто ягó ве́дае

• ***for goodness sake*** на прамі́лы Бог, на мі́ласьць Бо́га

**good night** дабра́нач, до́брай но́чы

**goods** [gʊdz] n., pl. 1. а) асабі́стыя рэ́чы, маёмасьць. б. Law рухо́мая маёмасьць. 2. тава́ры *pl.* 3. мануфакту́ра *f.*, ткані́ны *pl.*

• ***catch with the goods*** злаві́ць на гара́чым учы́нку *або́* на ме́сцы злачы́нства

**good-tempered** [ˌgʊdˈtempərd] 1. спако́йны, з ужы́ўчым хара́ктарам; прые́мны. 2. ураўнава́жаны

**good turn** паслу́га *f.*, до́бры ўчы́нак

**good will**, n. 1. добразы́члівасьць, прыхі́льнасьць, спрыя́льнасьць *f.*: ***a good-will visit*** прыя́цельскі візы́т. 2. гато́ўнасьць *f.*, до́брая во́ля. 3. до́брая рэпута́цыя

**goody** [ˈgʊdi] – n., pl. **goodies** ласу́нкі, прысма́кі *pl.*

– interj. ***Oh, goody!*** О, до́бранька!; Цудо́ўна!
– adj. до́браньні, дабрадзе́йны (*напака́з*)
**goof** [gu:f] – n., Sl. 1. прасьця́к -а́ *m.*; ду́рlань -ня *m.*, дурні́ца *m. & f.* 2. дурна́я памы́лка *f.*
– v.i. рабі́ць памы́лку, памыля́цца
– v.t. парта́чыць, псава́ць спра́ву
**goof off,** Sl. 1. марнава́ць час, бязьдзе́йнічаць; гульта́іць. 2. бадзя́цца бязмэ́тна
**goof-off** [ˈgu:fˌɑ:f] n. абібо́к -а *m.*
**goofy** [ˈgu:fi] adj. дурнава́ты, бесталко́вы
**goose** [gu:s] n., pl. **geese** 1. гусь *f.* 2. Informal ду́рlань -ня *m.*, дурні́ца, разява́кla -і *m. & f.*
**gooseberry** [ˈgu:sˌberi] n., pl. **-ries** 1. агрэ́ст -у *m.* 2. Informal трэ́цяя асо́ба, яка́я суправаджа́е па́ру закаха́ных
**goosebumps** [ˈgu:sbʌmps] n., pl., Informal or **goose flesh** гусі́ная ску́ра, мура́шкі на це́ле
**gopher** [ˈgoʊfər] n., Zool. су́сьлік -а *m.*
**gore I** [gɔ:r] n. 1. запе́чаная кроў; густа́я кроў
**gore II** [gɔ:r] v.t. 1. прабада́ць, пракало́ць рага́мі *або́* ікла́мі. 2. Obsol. глыбо́ка прабі́ць (*нажо́м*)
**gore III** [gɔ:r] n. 1. клін, уста́ўлены ў спадні́цу. 2. Dial. клінава́ты ўча́стак зямлі́
**gorge** [gɔ:rdʒ] – n. 1, глыбо́кая цясьні́на ў гара́х. 2. апэты́тная ядзе́ньне, пражэ́рлівасьць *f.* 3. зьмест стра́ўніка. 4. пачуцьцё агі́ды, абурэ́ньня, крыўды
– v.i. пра́гна е́сьці, напі́хвацца; насыча́цца
**gorgeous** [ˈgɔ:rdʒəs] adj. пы́шны, велікапы́шны, раско́шны
**gorilla** [gəˈrɪlə] n. 1. гары́ла *f.* 2. Sl. а) мо́цны й бязьлі́тасны чалаве́к. б) га́нгстэр -а *m.*
**gorse** [gɔ:rs] n. esp. Brit., Bot. жаўтазе́лlь -ю *m.*
**gory** [ˈgɔ:ri] adj. 1. акрыва́ўлены, запэ́цканы крывёю. 2. крыва́вы (*бой, забо́йства*)
**gosling** [ˈgɑ:zlɪŋ] n. 1. гусянё, гусяня́ *n.* 2. дурны́ недасьве́дчаны чалаве́к
**gospel** [ˈgɑ:spəl] – n. 1. эва́нгельле *n.* 2. сьвята́я пра́ўда
– adj. эванге́льскі
**gossip** [ˈgɑ:səp] – n. 1. плётка *f.*, плятка́рства *n.* 2. плятка́р -а́ *m.*, плятка́рка *f.*
– v. плятка́рыць
**got** [gɑ:t] v., *p.t. and a p.p. of* **get** 1. атрыма́ць: ***We got the letter yesterday*** Мы атрыма́лі ліст учо́ра. 2. мець: ***Have you got the pencil?*** Ці ты ма́еш алавік? 3. му́сіць: ***I've got to study now*** Я му́шу цяпе́р вучы́цца
**Goth** [gɑ:θ] n. 1. гот -а *m.* 2. нецывілізава́ны чалаве́к
**Gothic** [ˈgɑ:θɪk] – n. 1. го́тыка *f.*, гаты́чны стыль. 2. го́цкая мо́ва. 3. ***gothic*** гаты́чны шрыфт
– adj. 1. гаты́чны (*стыль, архітэкту́ра*). 2. го́цкі (*мо́ва, культу́ра*). 3. нецывілізава́ны, прымітыўны, ба́рбарскі. 4. Obsol. герма́нскі, тэўто́нскі
**gouge** [gaʊdʒ] – n. 1. паўкру́глае до́лата *або́* стаме́ска. 2. паз, дзі́рка ў дрэ́ве (*вы́браны до́латам*). 3. Informal а) шту́чка *f.*, ашука́нства, круце́льства *n.* б) круцlе́ль -яля́ *m.*, махля́р -а́ *m.*
– v.i. 1. рабі́ць, выбіра́ць паз паўкру́глым до́латам. 2. выко́пваць; вырыва́ць; выбіва́ць; выко́лваць: ***to gouge an eye*** вы́калаць во́ка. 3. Informal падстро́іць шту́ку, ашука́ць
**gourmand** [ˈgʊrmɑ:nd] n. 1. гурма́н -а *m.*, гурма́нка *f.* 2. абжо́рla -ы *m. & f.*
**gout** [gaʊt] n. 1. пада́гра *f.* 2. кро́пля *f.*; пы́рска *f.*; згу́стlак -ку *m.*: ***gouts of blood*** згу́сткі крыві́. 3. захво́рваньне на сьцёблах пшані́цы й ячме́ню
**gouty** [ˈgaʊti] adj. 1. які́ це́рпіць на пада́гру. 2. падагры́чны. 3. які́ выклі́кае пада́гру. 4. напу́хлы, ні́бы ад пада́гры
**govern** [ˈgʌvərn] v.t. 1. кірава́ць (*дзяржа́вай*); ўлада́рыць; рэгулява́ць. 2. вало́даць сабо́й. 3. мець уплы́ў; вызнача́ць, абумо́ўліваць. 4. Gram. кірава́ць

**governess** [ˈgʌvərnəs] n. 1. гувэрна́нтка, выхава́целька, выхава́льніца *f.* 2. жанчы́на, якая́ кіру́е

**government** [ˈgʌvərnmənt] n. 1. ура́д -у *m.* 2. кірава́ньне *n.* (*кра́ем, шта́там*). 2. ура́д -у *m.* 3. лад кірава́ньня. 4. кіраўні́цтва *n.*, упра́ва *f.* 5. Gram. кірава́ньне *n.*

**• *self-government*** самаўра́д -у *m.*

**governmental** [ˌgʌvərnˈməntəl] adj. ура́давы; кіру́ючы, кіраўні́чы

**governor** [ˈgʌvənər] n. 1. губэрна́тар -а *m.* 2. кіраўні́к -а́ *m.*, дыр́эктар -а *m.*: ***a board of governors*** ра́да кіраўніко́ў. 4. Tech. рэгуля́тар -а *m.* 5. Obsol. рэпэты́тар -а *m.* 6. esp. Brit., Sl. ба́цьк|а -і *m.*, гаспада́р -а́ *m.* (*на пра́цы*); астро́жны дазо́рца

**Governor General,** pl. **Governors general,** Can., Aus. генэра́л-губэрна́тар

**gown** [gaʊn] n. 1. суке́нка *f.*: ***evening gown*** вечаро́вая суке́нка. 2. а) манты́я *f.* (*судзьдзі́*). б) прафэсу́ра *f.* 3. начна́я кашу́ля, хала́т -а *m.*, шляфро́к -а *m.* 4. ры́мская то́га

**grab** [græb] **-bbed, -bbing,** – v.t. 1. хапа́ць. 2. захапля́ць; прысво́йваць. 3. хапа́ць; арыштоўваць

– n. 1. хапа́ньне *n.* 2. захо́п -у *m.*, прысвае́ньне *n.* 3. Mech. захва́т -а *m.*, аўтаматы́чны чарпа́к, экскава́тар -а *m.* 4. захо́пнік -а *m.*

**grace** [greɪs] – n. 1. гра́цыя, згра́бнасьць *f.* 2. прыхі́льнасьць, добразычлі́васьць *f.*; паслу́га, ла́ска *f.* 3. мі́ласьць, лі́тасьць *f.*; дарава́ньне, прабачэ́ньне *n.*: ***by the grace of God*** (*пры каралéўскім ты́туле*) з Бо́жае ла́скі. 4. каро́ткая малі́тва (*пе́рад ядо́й або́ пасьля́ яды́*). 5. адтэрміно́ўка (*упла́ты до́ўгу*). 6. ***Grace*** мі́ласьць, сьве́тласьць *f.* (*фо́рма зваро́ту да ге́рцага, герцагі́ні або́ архібі́скупа*): ***Your, His Grace*** Ва́ша, яго́ная сьве́тласьць

– v.t. 1. дадава́ць прыгажо́сьці *або́* я́касьці. 2. удасто́йваць, ушано́ўваць

**• *fall from grace*** стра́ціць ла́ску

**• *in the good graces of*** у ла́сцы ў *каго́*

**• *with bad grace*** неахво́тна; у непрые́мнай фо́рме, нела́ска́ва

**• *with good grace*** ахво́ча; ласка́ва

**graceful** [ˈgreɪsfəl] adj. 1. по́ўны гра́цыі; згра́бны, прыго́жы, стро́йны. 2. прые́мны

**gracious** [ˈgreɪʃəs] – adj. 1. прые́мны, ве́тлы, ве́тлівы. 2. мі́ласьцівы, ласка́вы; пабла́жлівы. 3. міласэ́рны, спага́длівы . 4. грацыёзны

– inter. (*во́кліч зьдзіўле́ньня*): ***Good gracious!*** А Бо́жухна! А Бо́жачка!

**graciousness** [ˈgreɪʃəsnəs] n. дабрыня́ *f.*: мі́ласьцівасьць, ласка́васьць *f.*

**gradation** [grəˈdeɪʃən] n. 1. града́цыя *f.*: паступ́овасьць *f.*; паступ́овы перахо́д. 2. pl. перахо́дныя ступе́ні, адце́ньні. 3. перахо́д ад адна́е ступе́ні да друго́е *або́* ад аднаго́ ко́леру да друго́га, ценява́ньне. 4. Gram. чаргава́ньне гало́сных, абля́ўт -у *m.*

**grade** [greɪd] – n. 1. кля́са *f.* (*у шко́ле*). 2. ступе́нь *f.*, эта́п -у *m.* (*у працэ́се*). 3. гату́н|ак -ку *m.*, сорт -у *m.*, ранг -у *m.*: ***grade A milk*** малако́ пе́ршага гату́нку. 4. адзна́ка, ацэ́нка *f.* 5. схіл, пака́т -у *m.*

– v.t. 1. разьдзяля́ць на гату́нкі *або́* ступе́ні, сартава́ць, клясыфікава́ць. 2. а) выстаўля́ць адзна́кі. б) разьмяшча́ць (*ву́чняў па кля́сах*). 3. зраза́ць стро́мкі пака́т даро́гі, раўня́ць даро́гу. 4. ценява́ць. 5. паляпша́ць паро́ду крыжава́ньнем зь ле́пшай паро́дай

– v.i. 1. паступо́ва мяня́цца, перахо́дзіць у і́ншую ступе́нь. 2. Ling. чаргава́цца

**• *at grade*** на тым са́мым узро́ўні

**• *the grades*** пачатко́вая шко́ла

**grade crossing** скрыжава́ньне шляхо́ў (*чыгу́начных, даро́жных, ву́лічных*) на адны́м узро́ўні

**gradient** [ˈgreɪdiənt] – n. 1. нахі́л, схіл, пака́т -у *m.* (*даро́гі, чыгу́нкі, кана́лу*). 2. Phys. градые́нт -а *m.*

– adj. 1. паступо́вы. 2. пака́ты, узыхо́дны

**gradual** [ˈgrædʒʊəl] adj. 1. паступовы. 2. спадзісты, пахілы (*схон*)

**gradually** [ˈgrædʒʊəli] adv. паступова; мала-памалу; патроху, патрохі; пакрысе, пакрыху

**graduate** [ˈgrædʒueɪt] – v. 1. заканчваць універсытэт *або* школу. 2. паступова зьмяняцца

– v.t. 1. наносіць дзяленьні (*на тэрмометар, лінейку*). 2. калібраваць (*правяраць шкалу*). 3. разьмяшчаць *або* разьмяркоўваць паводле моцы, велічыні, колеру

– n. [ˈgrædʒuət] 1. выпускнік -а *m.*, выпускніца *f.* (*асабл. універсытэту*). 2. Chem. мэнзурка *f.*

– adj. які закончыў універсытэт, мае ступень бакаляўра

• ***graduate course*** or ***study*** курс, які падрыхтоўвае да атрыманьня ўніверсытэцкае ступені пасьля бакаляўрэату, магістрантура *f.*

**graduated** [ˈgrædʒueɪtəd] adj. 1. з нанесенай шкалой. 2. укладзены *або* разьмеркаваны паводле ступеняў, велічыні, або ў пасьлядоўным парадку

**graduate nurse** дыплямаваная мэдычная сястра

**graduating class** выпускная кляса, выпуск -у *m.*

**graduation** [ˌgrædʒuˈeɪʃən] n. 1. выпуск -у *m.*, заканчэньне школы, універсытэту. 2. атрыманьне *або* наданьне навуковае ступені. 3. цырыманіял наданьня навуковае ступені. 4. наношаньне шкалы; шкала *f.* 5. градацыя *f.*

**graft I** [græft] – v.t. 1. прышчапляць (*дрэва*). 2. удасканальваць гатункі дрэваў, кветак (*шляхам прышчэпваньня*). 3. перасаджваць жывую тканку. 4. прымаць, прышчапляць, прышчэпваць (*новыя звычаі*)

– n. 1. Bot. прышчэплак -ка *m.* 2. прышчэп -а *m.* 3. прышчэпка *f.* (*дзеяньне*). 4. перасаджаная жывая тканка

**graft II** [græft] – n. 1. хабарніцтва *n.*, браньне хабару; подкуп -у *m.* 2. хабар -у *m.*; нелегальныя прыбыткі

– v.i. браць хабар (*асабліва на палітычнай пасадзе*)

**grafter** [ˈgræftər] n. 1. той, хто прышчэплівае. 2. хабарнік -а *m.*, хабарніца *f.*; махляр -а *m.*, махлярка *f.*

**grain** [ greɪn] – n. 1. зерне *n.*; зернетка, зярнятка *n.*, *dim.* (*збожжавае*). 2. збожжа *n.*: ***a field of grain*** ніва *f.* 3. крупінка, пясчынка *f.*, драбінка *f.* (*пяску*); драблок -ка *m.* (*солі*): ***not a grain of truth*** ні драбінкі праўды. 4. гран -а *m.* (*старая адзінка аптэкарскай вагі*). 5. валакно *n.*; жылка, нітка *f.* 6. характар ад прыроды. 7. крышталічны стан

– v.t. 1. грануляваць (*цукар*). 2. маляваць пад дрэва *або* мармур. 3. надаваць зярністую паверхню *чаму*. 4. ачышчаць скуру ад шэрсьці. 5. фарбаваць у пражы, моцна насычаць фарбай. 6. карміць каня аўсом

– v.i. грануляваща; крышталізавацца

**grain elevator** элеватар -а *m.*

**grainy** [ˈgreɪni] adj. 1. зярністы; грануляваны. 2. які мае структуру падобную да дрэва, мармуру

**gram** [græm] n. грам -а *m.*

**grammar** [ˈgræmər] n. 1. граматыка *f.* 2. асновы: ***the grammar of painting*** асновы жывапісу

**grammarian** [grəˈmeriən] n. граматык -а *m.*, мовазнавец -ўца *m.*

**grammar school** 1. пачатковая школа. 2. esp. Brit. сярэдняя школа клясычнага тыпу

**grammatical** [grəˈmætɪkəl] adj. граматычны: ***grammatical mistake*** граматычная памылка

**gramme** [græm] n. Brit., Can. грам -а *m.*

**gramophone** [ˈgræməfoʊn] n. Brit. грамафон -а *m.*

**grampus** [ˈgræmpəs] n. 1. вялікі марскі дэльфін. 2. Informal чалавек, які голасна сапе

**granary** [ˈgrænəri] n., pl. **-ries** 1. сьвіран -на *m.*, клець *f.*, жытніца *f.* 2. хлебаробная вобласьць краю

**grand I** [grænd] adj. 1. грандыёзны; імпазáнтны; высакарóдны, вéлічны; заслýжаны, паважáны: ***a grand man*** заслýжаны чалавéк. 2. найвышэ́йшы павóдле рáнгу *абó* станóвішча; галóўны, кірýючы. 3. вялíкі; вáжны, галóўны: ***the grand staircase*** парáдныя схóды. 4. Informal вéльмі прыéмны: ***to have a grand time*** вéльмі прыéмна правéсьці час

**grand II** [grænd] n. рая́л|ь -я *m.*

**grandaunt** [ˈgrændænt] n. цётка бáцькі *абó* мáці

**grandchild** [ˈgræntʃaɪld] n., pl. **-children** унýк -а *m.*, унýчка *f.*

**granddad** [ˈgrændæd] or **granddaddy** [ˈgrænˌdædi] n, pl. **-dies,** Informal дзед, дзядýл|я -і *m.*

**granddaughter** [ˈgrænˌdɔ:tər] n. унýчка *f.*

**grand duchess** вялíкая княгíня (*таксáма жóнка князя*), герцагíня *f.* (*жóнка абó дачкá гéрцага*)

**grand duchy** вялíкае кня́ства; гéрцагства *n.*

**Grand Duchy of Lithuania** Вялíкае Кня́ства Літóўскае

**grand duke** вялíкі князь, гéрцаг -а *m.*

**grandeur** [ˈgrændʒər] n. 1. вéліч *f.*, грандыёзнасьць *f.*; дастóйнасьць, высакарóднасьць; пы́шнасьць *f.* 2. знáтнасьць *f.*

**grandfather** [ˈgrændˌfɑ:ðər] n. дзед -а *m.*, дзядýл|я -і *m.*

**grandiloquence** [grænˈdɪləkwəns] n. высакамóўнасьць, напы́шлівасьць *f.* (*сты́лю*)

**grand jury**, Law. прыся́жныя (*якíя вырашáюць спрáву аддáньня пад суд*)

**grandma** [ˈgrænmɑ:] n. or **grandmamma** [ˈgrændməˌmɑ:] n., Informal бабýля *f.*

**grandmother** [ˈgrænˌmʌðər] – n. 1. бáбка, бабýля, бабýлька *f.* 2. прарóдзічка *f.*

– v.t. пéсьціць, даглядáць (*дзіця́*)

**grandnephew** [ˈgrændˌnefju:] n. сын пляменьніка *абó* пляменьніцы

**grandniece** [ˈgrændni:s] n. дачкá пляменьніка *абó* пляменьніцы

**grandparents** [ˈgrændˌperənts] n., pl. дзед і бáбка, дзядýля й бабýля

**grand piano** раял|ь -я *m.*

**grandson** [ˈgrænsʌn] n. унýк -а *m.*

**grandstand** [ˈgrændstænd] – n. трыбýна *f.*, мéсца для пýблікі (*на стадыёнах, на пляцах*)

– v.i. намагáцца зрабíць урáжаньне (*на слухачóў*)

– adj. паказны́, разьлíчаны на вóнкавы эфэ́кт

**granduncle** [ˈgrændˌʌŋkəl] n. дзя́дзька бáцькі *абó* мáці

**grange** [greɪndʒ] n. 1. фэ́рма з гаспадáрчымі пабудóвамі. 2. фэўдáльны *абó* манасты́рскі двор. 3. Archaic сьвíрн|ан -а *m.*; пýня *f.*, гумнó *n.*

• ***Grange*** арганізáцыя фэ́рмэраў; мясцóвы аддзéл гэ́тае арганізáцыі

**granite** [ˈgrænɪt] n. 1. гранíт -у *m.* 2. цьвёрдасьць *f.* (*задýмы, сэ́рца*), камéннасьць *f.*: ***granite-faced*** з камéнным твáрам; ***a heart of granite*** сэ́рца з гранíту, камéннае сэ́рца

**granitic** [grəˈnɪtɪk] adj. 1. гранíтны, з гранíту. 2. цьвёрды; нерухóмы, застылы, камéнны (*твар*)

**grannie** or **granny** [ˈgræni] n., pl. **-nies,** Informal бабýля, старáя, бáбка, бабýлька *f.*

**grant** [grænt] – v.t. 1. давáць (*тóе, пра што прóсяць*); дазваля́ць: ***to grant scholarship (permission)*** даць стыпэ́ндыю (дазвóл). 2. прызнавáць праўдзíвым; згаджáцца, прызнавáць слýшнасьць. 3. узнагарóджваць, надавáць (*правы́, прывілéі*); афіцы́йна перадáць *камý* маёмасьць

– v.i. згаджáцца на *што*

– n. 1. атрымáнае прáва (*прывілéй, зямля́*), грашóвая дапамóга; стыпэ́ндыя, датáцыя, субсы́дыя *f.* 2. прызнáньне, надáньне (*прáва*); перадáча *f.* (*маёмасьці*)

• ***take for granted*** прымáць за нармáльную рэч, лічы́ць натурáльным

**grant-in-aid** [ˈgræntɪneɪd] n., pl. **grants-in-aid** датáцыя, субсы́дыя *f.*

**granular** [ˈgrænjələr] adj. зярністы

**granularity** [ˌgrænjəˈlæreti] n. зярністасьць *f.*

**granulate** [ˈgrænjəleɪt] – v.t. 1. драбіць, грануляваць, ператвараць у зярністы стан (*цукар*). 2. рабіць шурпатай паверхню
– v.t. 1. драбіцца. 2. прымаць зярністы выгляд, рабіцца шурпатай (*пра паверхню*): ***Wounds granulate in healing*** Рана пры загойваньні пакрываецца тканкай зь зярністым выглядам

**granulated** [ˈgrænjəleɪtəd] adj. 1. раздроблены, грануляваны (*цукар*). 2. ***granulated sugar*** цукар-пясок, пескавы цукар. 3. з шурпатай паверхняй (*шкло, скура*)

**granulation** [ˌgrænjəˈleɪʃən] n. грануляцыя *f.* а) драбленьне рэчыва. б) наданьне паверхні шурпатасьці

**granule** [ˈgrænju:l] n. 1. зярнятка *n.* 2. драбінка, часьцінка *f.*, драбlок -ка *m.*; маленькая плямка

**grape** [greɪp] n. 1. вінаград -у *m.* (*лаза, ягады*). 2. цёмны фіялётава-чырвоны колер. 3. вінаградны сок; віно *n.*

**grapefruit** [ˈgreɪpfru:t] n. грэйпфрут -а *m.*

**grapery** [ˈgreɪpəri] n., pl. **-eries** 1. вінаградная цяпліца. 2. вінаграднік -а *m.*

**grapes of wrath** прычына хваляваньняў, масавага гнеўу

**grapevine** [ˈgreɪpvaɪn] n. 1. вінаградная лаза. 2. Informal беспадстаўныя чуткі

**graph** [græf] n. графік -у *m.*, дыяграма *f.*

**graphic** [ˈgræfɪk] – adj. 1. вобразны, жывы (*расказ*). 2. графічны; выяўленчы
– n. гравюра *f.*, малюнlак -ка *m.*; літаграфія *f.*

**graphic arts** выяўленчае мастацтва

**graphically** [ˈgræfɪkəli] adv. графічна, навочна, наглядна; пры дапамозе дыяграмы

**graphite** [ˈgræfaɪt] n. графіт -у *m.*

**grapnel** [ˈgræpnəl] n. 1. абардажны крук. 2. малы якар з трыма ці больш кручкамі (*для лодак*); кошка *f.*

**grapple** [ˈgræpəl] – v.t. схапіць і моцна трымаць; моцна ўхапіцца, учапіцца
– v.i. 1. змагацца; счапляцца, схапляцца (*пры дужаньні*). 2. шукаць пры дапамозе кошкі пад вадою
– n. сутычка, барацьба *f.*

**grasp** [græsp] – v.t. 1. хапаць, схопліваць. 2. хапаць, лавіць (*нагоду*). 3. разумець: ***She grasped my meaning at once*** Яна адразу зразумела маю думку; ***to grasp at*** а) старацца схапіць. б) ахвотна прыняць *што*, схапіць (-ца) за *што*: ***to grasp at the proposal*** схапіцца за прапанову, ахвотна згадзіцца з прапановай; ***to grasp at straws*** хапацца за саломінку
– n. 1. хапаньне *n.*; захоп -у *m.*; поціск рукі. 2. дасягальнасьць: ***within one's grasp*** блізка, як дастаць рукою; дасягальны; ***beyond one's grasp*** недасягальны, недасяжны. 3. разуменьне, здольнасьць хутка ўспрымаць

**grasping** [ˈgræspɪŋ] adj. 1. які хапае, схоплівае. 2. прагны, прагавіты, хцівы

**grass** [græs] – n. 1. трава *f.* 2. луг -у *m.*, сенажаць, паша *f.*
– v.t. 1. засяваць травою. 2. карміць травою. 3. слаць лён на траву
– v.i. 1. зарастаць травою. 2. пасьвіцца на пашы
• ***at grass*** а) на пашы. б) бяз працы, на адпачынку
• ***go to grass*** а) пасьвіцца, ісьці на пашу. б) ісьці на пэнсію

**grasshopper** [ˈgræsˌhɑ:pər] n. 1. конік -а *m.* (*палявы*). 2. лёгкі самалёт для выведкі, сувязі ды іншых мэтаў

**grass widow** саламяная ўдава, разводка *f.*

**grass widower** саламяны ўдавец

**grassy** [ˈgræsi] adj. 1. парослы травою. 2. травяны. 3. травяністы, зялёны, як трава

**grate I** [greɪt] n. 1. краты *pl.*, кратка *f.*, каласьнік -а *m.* (*у топцы*). 2. камін -а *m.*

**grate II** [greɪt] – v.t. 1. дзерці (*на тарцы*). 2. скрыгатаць (*зубамі*). 3. скрэбці; шкрабаць. 4. раздражняць, злаваць

– v.i. 1. (on, upon) раздражняць ***it grates on my ear*** гэта рэжа слых. 2. скрыгатаць
– n. скрыгат -у *m.*: ***the grate of old, rusty hinges*** скрыгат старых заіржавелых завесаў

**grater** [ˈgreɪtər] n. тарка *f.*

**grateful** [ˈgreɪtfəl] adj. 1. удзячны. 2. даспадобы, пажаданы

**gratefully** [ˈgreɪtfəli] adv. з падзякай, з удзячнасьцю

**gratify** [ˈgrætɪfaɪ] v.t. 1. рабіць *каму* прыемнасьць; цешыць, радаваць. 2. задавальняць; заспакойваць; наталяць (*патрэбу, жаданьне, смагу*). 3. Archaic даваць на гасьцінец *або* грашовы падарунак

**grating I** [ˈgreɪtɪŋ] n. 1. краты, *pl. only, gen.* кратаў (*на вокнах*). 2. жалезная агароджа

**grating II** [ˈgreɪtɪŋ] adj. 1. рэзкі, дзярлівы, які дзярэ. 2. непрыемны, раздражняльны, які рэжа слых

**gratis** [ˈgrætəs] – adv. дарма, дарма; бясплатна, за нішто
– adj. дармавы, дармовы, бясплатны

**gratitude** [ˈgrætətu:d] n. удзячнасьць *f.*

**gratuitous** [grəˈtu:ətəs] adj. 1. дармавы, бясплатны. 2. беспадстаўны; непатрэбны, недарэчны. 3. Law дармовы, бязвыплатны (*адчужэньне*)

**gratuity** [grəˈtu:əti] n., pl. **-ties** 1. грашовая ўзнагарода, прэмія *f.* 2. гасьцінlец -ца *m.*, чаявыя, *pl. only.* 3. падарунlак -ка *m.* 4. esp. Brit. узнагародныя *pl. only* (*у войску*)

**grave I** [greɪv] n. 1. магіла *f.*, дол -у *m.* 2. курган -а *m.*, помнік -а *m.*, грабніца *f.* 3. сьмерць *f.*
• ***one foot in the grave*** адной нагой у магіле, блізкі да сьмерці

**grave II** [greɪv] adj. 1. важны, важкі: ***a grave decision*** важная пастанова. 2. паважны, пагражальны, небясьпечны: ***a grave situation*** небясьпечнае становішча; ***grave news*** сумная вестка. 3. паважны, урачысты: ***a grave face*** паважны твар. 4. пануры, мрочны, цёмны (*колеры*)

**grave III** [greɪv] v.t., **graved, graved** or **graven** 1. рабіць незабыўнае ўражаньне. 2. рэзаць, вырэзваць (*на дрэве*); высякаць

**gravel** [ˈgrævəl] – n. 1. жвір -у *m.*, жарства *f.* 2. Med. мачавыя камяні. 3. Obsol. пяслок -ку *m.*
– v.t. 1. высыпаць жарствой. 2. ставіць у тупік; бянтэжыць, зьдзіўляць. 3. садзіць карабель на меліну
– adj. 1. рэзкі, ахрыплы, непрыемны (*пра голас*). 2. шорсткі, жарсьцьвяны, жвірысты

**gravely** [greɪvli] adv. цяжка, паважна: ***gravely ill*** цяжка хворы

**gravestone** [ˈgreɪvstoʊn] n. помнік -а *m.*; намагільны камень

**graveyard** [ˈgreɪvjɑ:rd] n. могілкі *pl. only.*; могільнік -у *m.*

**gravitate** [ˈgrævɪteɪt] – v.i., Phys. 1. прыцягвацца (*сілай зямлі*). 2. асядаць: ***to gravitate to the bottom*** падаць, асядаць на дно або долу. 3. мець цягу, імкнуцца; цягнуцца
– v.t. прыцягваць (*сілай цяжару*)

**gravitation** [ˌgrævɪˈteɪʃən] n., Phys. 1. прыцягненьне *n.*: ***the law of gravitation*** закон прыцягненьня. 2. цяга *f.* (*да чаго-н.*). 3. паданьне *n.*, апусканьне на дно

**gravity** [ˈgrævəti] n., pl. **-ties,** Phys. 1. а) сіла зямнога прыцягненьня. б) прыцягненьне, прыцяжэньне *f.* 2. цяжар -у *m.*, сіла цяжару: ***center of gravity*** цэнтар прыцягненьня. 3. паважнасьць, урачыстасьць *f.* 4. важнасьць *f.*; цяжкасьць (*становішча*)

**gravy** [ˈgreɪvi] n., pl. **-vies** 1. падліва *f.* (*мясная*), соўс -у *m.* 2. Sl. лёгкі выйгрыш *або* прыбытак

**gravy boat** соўсьнік -а *m.*; соўсьніца *f.*

**gray** [greɪ] – n. 1. шэры колер. 2. сівое сукно. 3. сівы -ога *m.* (*пра каня*)
– adj. 1. сівы (*валасы, конь, сьвітка*), сівенькі: ***to turn gray*** сівець; шэры (*дзень, вочы*), шэранькі. 2. Informal стары, старавечны. 3. цёмны, пануры, шэры; цяжкі

**graze I** [greɪz] – v.i. пáсьвіцца (*на пáшы*)
– v.t. пáсьвіць
– n. пасьбá *f.*

**graze II** [greɪz] – v.t. 1. лёгка закранáць, зачапля́ць *што.* 2. зьбівáць; абдзірáць (*скýру з рукí*)
– v.i. зачапíцца, шарганýцца аб *што*
– n. малáя рáнка, дрáпіна *f.*

**grazing** [ˈgreɪzɪŋ] n. пáша *f.*
• ***grazing land*** пáсьбішча *n.*, папáс, вы́ган -у *m.*

**grease** [gri:s] – n. 1. тлушч -у *m.* 2. змáзка, мазь *f.*
– v.t. 1. мáзаць, намáзваць (*тлýшчам*); падмáзваць (*кóлы мáзьзю*). 2. Informal падкупля́ць, падмáзваць *кагó*

**greasy** [ˈgri:si] adj. 1. тлýсты (*пра éжу*). 2. тлýсты, тлýшчавы (*пля́ма*); затлýшчаны, зашмальцавáны

**great** [greɪt] – adj. 1. вялíкі (*натóўп*). 2. вáжны, выдáтны, слáўны (*здарэ́ньне, мастáк*), геніяльны
– adv., Informal вéльмі дóбра
• ***a great many*** шмат

**great-aunt** [ˌgreɪtˈænt] n. *гл.* **grandaunt**

**great-grandchild** [ˌgreɪtˈgrændtʃaɪld] n. прáўнук -а *m.*, прáўнучка *f.*

**great-granddaughter** [ˌgreɪtˈgrændˌdɔ:tər] прáўнучка *f.*

**great-grandfather**[ˌgreɪtˈgrændˌfɑ:ðər] n. прáдзед -а *m.*

**great-grandmother**[ˌgreɪtˈgrændˌmʌðər] n. прабáбка *f.*

**great-grandson** [ˌgreɪtˈgrændsʌn] n. прáўнук -а *m.*

**greatly** [ˈgreɪtli] adv. 1. мóцна, вéльмі. 2. вéлічна, высакарóдна

**great-uncle** [ˌgreɪtˈʌŋkəl] n. *гл.* **granduncle**

**Grecian** [ˈgri:ʃən] – adj. старагрэ́цкі: ***Grecian temple*** старагрэ́цкая сьвяты́ня
– n. 1. грэк -а *m.*, грачáнка *f.* 2. элíніст -а *m.*, элíністка *f.*

**greed** [gri:d] n. сквáпнасьць, прагавíтасьць, хцíвасьць *f.*

**greedily** [ˈgri:dɪli] adv. прагавíта, хцíва

**greediness** [ˈgri:dinəs] n. прагавíтасьць, хцівасьць *f.*

**greedy** [ˈgri:di] adj. 1. прагавíты, хцíвы; сквáпны, ненаéдны. 2. пражэ́рлівы

**Greek** [gri:k] – adj. грэ́цкі
– n. 1. грэк -а *m.*, грачáнка *f.* 2. грэ́цкая мóва

**Greek Catholic** – n. грэ́какаталíк -á *m.*, вунія́т -а *m.*
– adj. грэкакаталíцкі, вунія́цкі

**green** [gri:n] – n. 1. зялёны кóлер. 2. зялёная фáрба, зялёнка *f.* 3. луг -у *m.* (*для гýльняў*)
– adj. 1. зялёны. 2. пакры́ты зéленьню. 3. сьвéжы. 4. нясьпéлы (*я́блык*) 5. нястáлы, нясьпéлы (*век*); недавýчаны, недасьвéдчаны (*працаўнíк*). 6. давéрлівы. 7. сыры́, неапрацавáны (*лясны́ матэрыя́л*)
– v.i. , v.t. зелянéць, зеляніць
• ***greens*** а) зялёнае лісьцё або галíнкі (*для дэкарáцыі*). б) зелянíна *f.*, зялёная гарóдніна, зялéніва *n.* в) зялёныя, экалягíсты
• ***turn green with envy*** пазелянéць ад зáйздрасьці

**greenery** [ˈgri:nəri] n. 1. зéлень *f.* 2. аранжарэ́я *f.*

**green-eyed** [ˌgri:nˈaɪd] adj. 1. зеленавóкі. 2. зайздрóсны
• ***green-eyed monster*** зáйздрасьць, рэ́ўнасьць *f.*

**greenhouse** [ˈgri:nhaʊs] n. цяплíца, аранжарэ́я *f.*, парнíк -á *m.*

**greenish** [ˈgri:nɪʃ] adj. зеленавáты: ***greenish-yellow*** зеленавáта-жóўты

**greet** [gri:t] v.t. 1. вітáць. 2. зьвяртáцца да *кагó* (*са слóвам*). 3. успрымáць: ***His speech was greeted with cheers*** Ягóная прамóва былá ўспрыня́тая рáдаснымі вóклічамі

**greeting** [ˈgri:tɪŋ] n. вітáньне, прывітáньне *n.*: ***Christmas greetings*** каля́дныя віншавáньні

**greeting card** віншавáльная кáртка

**gregarious** [grɪˈgeriəs] adj. 1. якí жывé гýртам, грамадóю. 2. тавáрыскі, грамáдзкі. 3. стáдны

**grenade** [grɪˈneɪd] n. гранáта *f.*

**grenadier** [ˌgrenəˈdɪr] n. 1. гранатамётчык -а *m.* 2. грэнадзёр -а *m.*

**grew** [gru:] v., *p.t. of* **grow**

**grey** [greɪ] adj., esp. Brit. *гл.* **gray**

**grey-eyed** шэравóкі

**grey hair** сівы́я валасы́, сіві́нка ў валасóх, сівізнá *f.*

**greyhound** [ˈgreɪhaʊnd] 1. хорт хартá *m.* (*паляўні́чы сабáка*). 2. быстрахóдны акія́нскі параплáў. 3. аўтóбус дáльніх рэ́йсаў

**greyish** [ˈgreɪɪʃ] adj., esp. Brit. сівавáты, сівавáценькі; шаравáты, шаравáценькі

**grid** [grɪd] n. 1. крáты *pl.* (*на вóкнах*) 2. агарóджа з пруткóў, пля́нак. 3. каласьні́к -á *m.* 3. сéтка электралі́ніяў

**grief** [gri:f] n. 1. бол|ь -ю *m.*, смýт|ак -ку *m.*; сум -у *m.*, скрýха, тугá *f.*, жáльба *f.* 2. гóра *n.*, бядá *f.*, цярпéньні *pl.*: ***to come to grief*** папáсьці ў бядý; пацярпéць няўдáчу

**grievance** [ˈgri:vəns] n. 1. кры́ўда, скáрга *f.* 2. гóра *n.*, бядá *f.*; небясьпéка *f.*, вялі́кі клóпат

**grieve** [gri:v] – v.i. мóцна смуткавáць, бедавáць, пакýтаваць

– v.t. мóцна засмучáць; прычыня́ць вялі́кі боль

**grievous** [ˈgri:vəs] adj. 1. вóстры, нясьцéрпны (*пра боль, лю́тасьць*). 2. страшэ́нны; я́ўны, цяжкі́ (*праві́на, памы́лка*). 3. сýмны, гарóтны, гóркі (*пра дóлю*): ***a grievous cry*** пакýтлівы, балю́чы крык

**grill** [grɪl] – n. 1. грыл|ь -ю *m.*, каласьнікóвыя крáты; жалéзная крáта для смáжаньня мя́са на агні́. 2. грыл|ь -ю *m.*, мя́са *абó* ры́ба смáжаная на агні́. 3. рэстарáн, у які́м мя́са, ры́ба смáжыцца навідавóку

– v.t. 1. смáжыць на агні́. 2. сурóва дапы́тваць

– v.i. 1. смáжыцца на агні́. 2. цярпéць агнём

**grille** [grɪl] – n. крáты *pl. only.*

– v.t. 1. стáвіць крáты. 2. пагашáць паштóвыя мáркі

**grillroom** [ˈgrɪlru:m] n. рэстарáн, у які́м мя́са, ры́ба смáжыцца пры пýбліцы

**grim** [grɪm] adj. 1. панýры, злавéсны (*пóзірк, вы́гляд*), пагрóзьлівы. 2. сурóвы, няўмóльны. 3. непахі́сны, нязлóмны; заўзя́ты. 4. страшны́, жахлі́вы

**grime** [graɪm] – n. бруд, які́ глыбóка ўéўся (*асабл. у скýру*)

– v.t. мóцна пэ́цкаць: ***Walls were grimed with smoke*** Сьцéны пачарнéлі ад ды́му

**grimace** [grɪˈmeɪs] – n. грымáса, мі́на *f.*

– v.i. грымáсьнічаць, крыўля́цца, стрóіць мі́ны

**grimy** [ˈgraɪmi] adj. карэ́лы, карáвы; вéльмі брýдны, чóрны

**grin** [grɪn] – v.i. **(-nn-)** шырóка ўсьміхáцца

– n. 1. усьмéшка *f.* 2. выскаля́ньне, вышчэ́рваньне, ашчэ́рваньне *n.*

**grind** [graɪnd] – v.t. 1. малóць; расьцірáць на парашóк. 2. мýчыць, зьдзéкавацца; прыгнятáць, уціскáць. 3. тачы́ць (*нож*); шліфавáць. 4. круці́ць рýчку (*катры́нкі*). 5. скрыгатáць зубáмі (*ад злóсьці*). 6. Informal удзёўбваць, убівáць (*у галавý*)

– v.i. 1. малóцца. 2. Informal зубры́ць (*пéрад экзáмэнам*)

– n. 1. расьцірáньне, таўчэ́ньне *n.* 2. скры́гат -у *m.* 3. цяжкáя нýдная рабóта. 4. Informal зубры́л|а -ы *m.* & *f.*

**grinder** [ˈgraɪndər] n. 1. тачы́льшчык -а *m.* 2. тачы́ла *n.* 3. карэ́нны зуб

• ***grinders***, Informal зýбы *pl.*

**grip** [grɪp] – n. 1. хвáтка *f.*; сьціскáньне *n.*, зáціск -у *m.* 2. рýчка *f.* 3. дарóжная тóрба, кáйстра *f.* 4. улада *f.*, ціскі́ *pl.*: ***to be in the grip of poverty*** быць у бéднасьці, цярпéць галéчу. 5. разумéньне *n.*, здóльнасьць разумéць: ***to have a grip of subject*** мець здóльнасьць да прадмéту, разумéць прадмéт. 6. грып -у *m.* 7. Tech. заціскáчка *f.*, кля́мар -а *m.*

– v.t. 1. схапі́ць і трымáць; ухапі́цца за *штo*. 2. трымáць у зацікаўлéньні; авалóдваць увáгай (*слухачóў*)

• ***come to grips*** а) схапі́цца бі́цца. б) павáжна ўзя́цца за што-н.

***• lose one's grip*** трáціць кантрóль

**gripe** [graɪp] v.t. 1. хапáць, схаплЯць; прышчамлЯць, прыціскáць. 2. прыгнятáць; прычынЯць боль. 3. злавáць. 4. спрычынЯць сýтаргі стрáўніка. 5. Informal мецъ жаль

**grisly** [ˈgrɪzli] adj. страшны́, жахлі́вы, страшэ́нны

**grist** [grɪst] n. 1. збóжжа на памóл. 2. змóлатае збóжжа. 2. мукá *f.*, памóл -у *m.*, млі́ва *n.* 3. Informal памóл, прыбы́т|ак -ку *m.*: ***grist to*** or ***for one's mill*** крыні́ца нéчых прыбы́ткаў

**gristle** [ˈgrɪsəl] n. храстl|óк -кá *m.*

**gristly** [ˈgrɪsli] adj. храсткавáты, храсткападóбны

**grit** [grɪt] – n. 1. пясl|óк -кý *m.*, дрóбны жвір. 2. буйназярні́сты пясчáнік -у *m.* 3. адвáга *f.*, гарт -у *m.*, вы́трымка, рашýчасьць, мýжнасьць *f.*
– v.t. **(-tt-)** рыпéць, скрыгатáць (*зубáмі*)

**grits** [grɪts] n., pl. 1. аўсЯныя, кукурýзныя крýпы. 2. мамалы́га, кукурýзная кáша

**gritty** [ˈgrɪti] adj. 1. пясчáны, жвіравы́. 2. Informal адвáжны, рашýчы

**grizzle** [ˈgrɪzəl] – n. 1. сівавáтыя валасы́. 2. сівы́ кóлер. 3. сівы́ конь *абó* і́ншая жывёліна
– adj. сівы́, сівавáты, зь сівы́мі валасáмі, сівагалóвы
– v.t. рабі́ць сівы́м
– v.i. сівéць

**grizzly** [ˈgrɪzli] adj. 1. сівавáты, сівы́. 2. зь сівы́мі валасáмі, сівагалóвы

**grizzly bear, Grizzly** вялі́кі дзікí сівы́ абó бýра-сівы́ мядзьвéдзь (*паўнóчнаамэрыкáнскі*)

**groan** [groʊn] – n. цяжкі́ ўзды́х, стогн -у *m.* (*ад бóлю, незадавальнéньня*)
– v.i. 1. цЯжка ўздыхáць, стагнáць. 2. угінáцца пад цяжáрам, быць перагрýжаным. 3. гавары́ць са стóгнам

**groats** [groʊts] n., pl. крýпы (*грýца, аўсЯнка*)

**grocer** [ˈgroʊsər] n. бакалéйнік -а *m.*

**grocery** [ˈgroʊsəri] n. 1. бакалéйная крáма
***• groceries*** прадýкты *pl.*, бакалéйныя тавáры

**grog** [grɑːg] n. грог -у *m.*

**groggy** [ˈgrɑːgi] adj. 1. хісткі́, няпэ́ўны на нагáх. 2. п'яны́

**groin** [grɔɪn] n. 1. Anat. пахві́на *f.* 2. Archit. крыжóвае скляпéньне.

**groom** [gruːm] – n. 1. маладl|ы́ -óга *m.*, жанí|х -á *m.* 2. кóнюх -а *m.*
– v.t. 1. кармі́ць, даглядáць кóней. 2. дбаць пра свой вы́гляд, акурáтна прыбірáцца, убірáцца: ***well groomed person*** акурáтна прыбрáны чалавéк

**groove** [gruːv] – n. 1. жалабl|óк -кá *m.*, паз, нарэ́з -а *m.* 2. каляі́на *f.* (*ад кóлаў*). 3. Informal руты́на, звы́чка, каляі́на *f.*: ***to get into a groove*** увайсьці́ ў звычáйную каляі́ну
– v.t. рабі́ць вы́емкі, нарэ́зваць жалабы́, раўчукі́; рабі́ць пазы́

**grope** [groʊp] – v.i. 1. мáцаць, намáцваць. 2. шукáць вóбмацкам, усьляпýю, наўздагáд; і́сьці вóбмацкам
– v.t. намáцваць *што*, знахóдзіць дарóгу вóбмацкам
– n. мáцаньне *n.*

**gross** [groʊs] – adj. 1. увéсь, пóўны; брýта, валавы́: ***gross receipts*** валавы́ прыбы́так; ***gross weight*** вагá брýта. 2. вéльмі благí, вялі́кі (*памы́лка*). 3. грубіЯнскі, вульгáрны. 4. вéльмі сы́ты, таўсты́ (*чалавéк*). 5. густы́, зьбі́ты (*зáрасьнік*)
– n. 1. a) цэ́лая сýма; усЯ кóлькасьць. б) Obsol. бóльшая чáстка, бальшынЯ. 2. 12 тýзінаў, 144 штýкі
***• in the gross*** а) наагýл, нагóгул; звычáйна; у цэ́лым. б) агýлам; гýртам (*купля́ць тавáр*)

**grotesque** [groʊˈtesk] adj. 1. дзіўны, дзівóсны; гратэ́скавы. 2. сьмяхóтны; недарэ́чны, абсýрдны

**grotto** [ˈgrɑːtoʊ] n., pl. **-toes** or **tos** пячóра *f.*, грот -у *m.*

**grouch** [graʊtʃ] Informal – v.i. бурчэ́ць; быць не ў гумóры; наракáць
– n. 1. дрэ́нны настрóй, незадавóленасьць. 2. буркý|н -á *m.*, буркýха *f.* 3. наракáньне, бурчáньне *n.*

**ground I** [graʊnd] – n. 1. зямля́, глéба *f.*, грунт -у *m.* 2. мéсца: ***fishing grounds*** мéсцы, раён для ры́бнай лóўлі; ***hunting grounds*** раён палява́ньня. 3. прычы́на, падста́ва *f.*: ***on what ground?*** на якóй падста́ве? 4. фон -у *m.* 5. дно мóра. 6. Electr. зазямлéньне *n.*

• ***above ground*** жывы́

• ***break ground*** капа́ць; ара́ць (*зямлю́*); выкóпваць я́му (*пад буды́нак*), пачына́ць будава́ць

• ***cover ground*** а) прайсьці́ нéйкую адлéгласьць. б) падарóжнічаць

• ***from the ground up*** ца́лкам, зусíм

• ***get off the ground*** распача́ць, рабíць пóступ

• ***give ground*** адступа́ць, саступа́ць

• ***grounds*** а) зямля́, сад, гарóд; пляц каля дóму. б) аса́дак, гу́шча (*на дне гарба́ты, ка́вы*)

• ***hold*** or ***stand one's ground*** мóцна трыма́цца, не саступа́ць, не адступа́ць

– v.t. 1. кла́сьці на зямлю́, дакрану́цца да зямлí. 2. навуча́ць аснóвам. 3. дава́ць фон для *чагó.* 4. Electr. зазямля́ць. 5. садзíць на мель (*карабéль, чóвен*). 6. прымуша́ць да пасáдкі (*самалёт*)

– v.i. садзíцца на мель

**ground II** [graʊnd] – *p.t. and p.p. of* **grind.**

– adj. мóлаты, змóлаты (*пéрац*).

**groundedly** [ˈgraʊndɪdli] adv. абгрунтава́на

**ground floor** ніжні павéрх

**ground forces** назéмныя вóйскі

**ground glass** ма́тавае шкло

**groundhog,** Zool. сур|óк -ка́ *m.*

**Groundhog Day** Дзень Сурка́ (*2 лю́тага, калí сурóк прачына́ецца ад сваé сьпя́чкі*)

**groundless** [ˈgraʊndləs] adj. беспадста́ўны, неабгрунтава́ны; беспрычы́нны

**ground water** грунтавы́я вóды

**groundwork** [ˈgraʊndwɜːrk] n. 1. фунда́мэнт -а, падму́р|ак -ка *m.* 2. падста́ва, аснóва *f.*

**group** [gruːp] – n. 1. гру́па *f.* 2. авія|пóлк -палка́ *m.* 3. Chem. радыка́л -а *m.*

– v.t. 1. групава́ць, уклада́ць гру́памі

– v.i. групава́цца

**grouse I** [graʊs] n. шатля́ндзкая курапа́тка *f.*, ра́бчык -а *m.*

• ***black grouse*** or ***game*** цецяру́к -á *m.*

• ***white grouse*** бéлая курапа́тка

• ***wood grouse*** глушíэц -цá *m.*

**grouse II** [graʊs] Informal, v.i. бурчэ́ць, нарака́ць

**grove** [groʊv] n. га|й -ю *m.*; сад -у *m.*

**grovel** [ˈgrʌvəl] v.i. ляжа́ць нíцма, пóўзаць; прынíжа́цца пéрад *кім*

**groveler** [ˈgrʌvələr] n. нізкапаклóньнік -а *m.*, халу́|й -я́ *m.*, падхалíм -а *m.*

**grow** [groʊ] **grew, grown** – v.i. 1. расьці́, выраста́ць. 2. павялíчвацца, пабóльшвацца; узраста́ць. 3. рабíцца; станавíцца: ***It grew cold*** Зрабíлася сьцюдзёна; ***to grow rich (grey)*** багацéць (сівéць)

– v.t. гадава́ць, вырóшчваць: ***to grow a beard (moustache)*** адгадава́ць, загадава́ць, адпусьцíць бараду́ (*ву́сы*)

• ***grow on*** or ***upon*** а) авалóдваць *кім.* б) падаба́цца ўсё больш *каму́*

• ***grow up*** а) падраста́ць, рабíцца дарóслым. б) ствара́цца; разьвіва́цца; паўстава́ць

**growing** [ˈgroʊɪŋ] adj. які́ расьцé: ***a growing season*** сэзóн рóсту

**growl** [graʊl] – v.i. 1. гы́ркаць (*асабл. пра саба́ку*). 2. злóсна нарака́ць, бурчэ́ць. 3. грымéць, грукацéць, грукатáць (*пра гром*)

– n. 1. гы́рканьне *n.* 2. злóснае нарака́ньне, бурчэ́ньне *n.* 3. гру́кат і трэск, гул грóму, грымóты *pl.*

**grown** [groʊn] – adj. 1. дарóслы, ста́лы (*чалавéк*). 2. парóслы за́расьнікам, хмызьнякóм

– v. *p.p. of* **grow**

**grown-up,** adj. дарóслы (*чалавéк*): ***grown-up manners*** манéры дарóслага чалавéка

**growth** [groʊθ] n. 1. рост -у *m.* 2. павелічэ́ньне *n.*, нарóст, прырóст -у *m.* 3.

пахо́джаньне *n.*: ***a plant of foreign growth*** расьлі́на заме́жнага пахо́джаньня. 4. за́расьнік -у *m.* 5. пухлі́на *f.*

**grub** [grʌb] – n. 1. ву́сен|ь -я *m.*, ля́рва *f.* 2. чалаве́к, які́ займа́ецца цяжко́й, нудно́й пра́цай; ішак ішака́ *m.* 3. Sl. е́жа *f.*

– v.i. 1. ры́цца (*у зямлі́*). 2. ця́жка працава́ць, цягну́ць ля́мку. 3. Sl. е́сьці

– v.t. 1. выкарчо́ўваць, выко́пваць з карэ́ньнем. 2. выбіра́ць карэ́ньне зь зямлі́. 3. Sl. кармі́ць (*забясьпе́чваць е́жай*)

**grubby** [ˈgrʌbi] adj. бру́дны; карэ́лы, кара́вы; неаха́йны

**grudge** [grʌdʒ] – n. 1. крыю́да *f.* 2. незычлі́васьць, непрыя́знасьць *f.*; антыпа́тыя *f.*; за́йздрасьць *f.*: ***to have a grudge against a person*** мець зуб на *каго́*

– v.t. 1. злава́цца, крыўдава́ць на *каго́* за *што*; зайздро́сьціць *каму́ чаго́*. 2. шкадава́ць *каму́ чаго́*, скупі́цца

**grudger** [ˈgrʌdʒər] n. скна́ра *m. & f.*, скупяндз|я́ -і́ *m. & f.*; зайздро́сьнік -а *m.*, зайздро́сьніца *f.*

**grudgingly** [ˈgrʌdʒɪŋli] adv. неахво́тна, не́хаця, шкаду́ючы

**gruel** [ˈgru:əl] – n. 1. рэ́дзенькая ка́шка, адва́р ры́су, аўся́нкі. 2. Informal ка́ра *f.*, пакара́ньне *n.*: ***to get one's gruel*** атрыма́ць па заслу́гах

– v.t. выму́чваць *каго́*, цалко́м зьнясі́льваць, мардава́ць

**grueling** [ˈgru:lɪŋ] – adj., Informal цяжкі́, сто́мны, зьнясі́льны

– n. му́ка *f.*

**gruelling** [ˈgru:lɪŋ] adj., esp. Brit. *гл.* **grueling,** adv. **gruellingly**

**gruesome** [ˈgru:səm] adj. стра́шны; жахлі́вы; агі́дны

**gruff** [grʌf] adj. 1. гру́бы, рэ́зкі; хры́плы (*пра го́лас*). 2. грубія́нскі, няве́тлы (*мане́ры*); непрыя́зны, ху́ткі на злосьць, зло́сны

**grumble** [ˈgrʌmbəl] – v.i. 1. (at, about) нарака́ць, жа́ліцца на *што*. 2. бурчэ́ць, мармыта́ць. 3. тарахце́ць

– n. 1. нарака́ньне *n.* 2. бурчэ́ньне *n.* 3. тарахце́ньне *n.*

**grumbler** [ˈgrʌmblər] n. бурку́н -а́ *m.*, бурку́ха *f.*

**grumpy** [ˈgrʌmpi] adj. 1. буркслі́вы, пану́ры, зло́сны; грубія́нскі. 2. у дрэ́нным настро́і, надзьму́ты

**grunt** [grʌnt] – n. 1. ро́хканьне *n.* (*сьві́ньні*). 2. бурчэ́ньне, мы́канньне *n.*

– v.i. 1. ро́хкаць. 2. мармыта́ць, мы́каць

**guarantee** [ˌgærənˈti:] – n. 1. пару́ка, гара́нтыя *f.* 2. паруча́льнік -а *m.*, гара́нт -а *m.* 3. асо́ба, яко́й дае́цца гара́нтыя. 4. зару́ка *f.*, закла́д -у *m.*: ***Wealth is no guarantee of happiness*** Бага́цьце ня ёсьць зару́кай шча́сьця

– v.t. 1. паруча́цца за *каго́*. 2. гаранта-ва́ць, забясьпе́чваць, руча́цца. 3. (against or from) засьцерага́ць, забясьпе́чваць, страхава́ць ад *чаго́*

**guaranteed** [ˌgærənˈti:d] adj. гарантава́ны

**guaranty** [ˈgærənti:] n., pl. **-ties** 1. зару́ка *f.*; закла́д -у *m.* 2. пі́санае абавяза́ньне *або́* пару́ка; забясьпе́чаньне (*пазы́кі*)

**guard** [gɑ:rd] – v.t. 1. ахо́ўваць, сьцерагчы́, вартава́ць. 2. пільнава́ць. 3. Archaic суправаджа́ць

– v.i. 1. сьцерагчы́ся, асьцерага́цца: ***to guard against errors*** сьцерагчы́ся, асьцерага́цца памы́лак

– n. 1. ва́рта, ахо́ва, абаро́на *f.* 2. варта|ві́ -о́га *m.* 3. асьцяро́га, пі́льнасьць *f.* 4. Brit. канду́ктар -а *m.* (*у цягнікý, трамва́і*)

• ***guards***, pl. гва́рдыя ў брыта́нскім во́йску

• ***off one's guard*** непадрыхтава́ны да нечака́нага напа́ду

• ***on guard*** напагато́ве (*барані́цца ці барані́ць*); асьцяро́жны, пі́льны

**guarded** [ˈgɑ:rdəd] adj. 1. трыма́ны пад ва́ртай *або́* ахо́вай; сьцеражо́ны. 2. асьцяро́жны; разва́жны, насьцяро́жаны: ***guarded look*** насьцяро́жаны по́зірк

**guardedly** [ˈgɑ:rdədli] adv. асьцерага́ючыся, асьцяро́жна; аба́чліва

**guardian** [ˈgɑ:rdiən] – n. 1. ахоўнік -а *m.*; абаронц|а -ы *m.*, абароньніца *f.* 2. апякун -а *m.*, апякунка *f.*
– adj. ахоўны

**guardian angel** анёл-ахоўнік

**guardianship** [ˈgɑ:rdiənʃɪp] n. 1. апека *f.* 2. апякунства *n.*

**guardrail** [ˈgɑ:rdreɪl] n. парэнчы, поручні *pl.* (*сходаў*); загарадзь *f.*, бар'ер -а *m.*

**guardroom** [ˈgɑ:rdru:m] n. 1. вартоўня *f.* 2. гаўптвахта *f.*

**gudgeon** [ˈgʌdʒən] – n. 1. пячкур -а *m.* (*рыба*). 2. дурн|ань -ня *m.*, разяв|а -ы, разявак|а -і *m. & f.* 3. прынада *f.* (*на рыбу*)
– v.t. ашукваць; абдурваць

**guerilla** or **guerrilla** [gəˈrɪlə] – n. 1. партызан -а *m.* 2. партызанка *f.*; партызанская вайна
– adj. партызанскі

**guess** [ges] – v.t. 1. угадваць. 2. адгадваць (*загадку*)
– v.i. 1. меркаваць; лічыць, думаць: ***I guess so*** Я гэтак думаю. 2. здагадвацца, прыблізна ацэньваць, вызначаць (*вартасьць*)
– n. 1. меркаваньне, дапушчэньне *n.* 2. здагадка *f.*

**guesswork** [ˈgeswɜ:rk] n. здагадкі, дапушчэньні *pl.*

**guest** [gest] – n. 1. госьць госьця *m.*, госьця *f.* 2. пастаял|ец -ьца *m.*, пастаялка *f.* (*у гатэлі*); сталаўнік -а *m.* 3. спэцыяльна запрошаны дакладчык, прамоўца *або* артыст. 4. Zool. паразыт -а *m.* (*асабл. насякомае*)
– adj. 1. гасьцінны, для гасьцей: ***a guest room*** пакой для гасьцей. 2. запрошаны: ***a guest lecturer*** запрошаны лектар

**guidance** [ˈgaɪdəns] n. 1. кіраўніцтва *n.* 2. настаўленьне *n.*; наказ, загад -у *m.*

**guide** [gaɪd] – v.t. 1. кіраваць; весьці, быць праваднікам. 2. накіроўваць, кіраваць (*канём*). 3. кантраляваць, рэгуляваць; загадваць *кім-чым*
– n. 1. важак, павадыр -а *m.*, павадырка *f.*, праваднік -а *m.*, экскурсавод -а *m.& f.* 2. даведнік -а *m.* (*асабл. для падарожжаў, турызму*). 3. паказальнік дарогаў

**guidebook** [ˈgaɪdbʊk] n. інфармацыйны даведнік; дапаможнік -а *m.*, інструкцыя *f.*

**guidepost** [ˈgaɪdpoʊst] n. вяха *f.*, паказальнік -а *m.* (*дарогаў*)

**guild** [gɪld] n. 1. Hist. цэх -у *m.*, гільдыя *f.* 2. таварыства самадапамогі

**guile** [gaɪl] n. ашуканства *n.*; хітрасьць *f.*, хітрыкі *pl.*; падступства *n.*; вераломства *n.*

**guileful** [ˈgaɪlfəl] adj. хітры, падступны, ашуканскі

**guilefully** [ˈgaɪlfəli] adv. ашуканствам, подступам

**guileless** [ ˈgaɪlləs] adj. сумленны; шчыры, адкрыты

**guilt** [gɪlt] n. 1. вінаватасьць *f.* (*наяўнасьць віны*). 2. віна, правіннасьць *f.*; злачынства *n.*

**guiltily** [ˈgɪltɪli] adv. вінавата, зь вінаватым выглядам

**guiltless** [ˈgɪltləs] adj. 1. без віны, невінаваты; нявінны, бязгрэшны, бясскрыўдны. 2. які ня ведае чаго-н. *або* ня ўмее

**guilty** [ˈgɪlti] adj. (of) вінаваты: ***guilty look*** вінаваты выгляд

**guinea** [ˈgɪni] n. гінэя *f.* (*ангельская манэта на 21 шылінг*)

**guinea fowl**, Zool. цацарка *f.* (*птушка*)

**guinea pig** 1. марская сьвінка (*ужываная і для лябараторных экспэрымэнтаў*). 2. Informal паддосьледная жывёліна *або* чалавек

**guise** [gaɪz] n. 1. стыль вопраткі; убор -у *m.*, адзеньне *n.* 2. вонкавы выгляд; падабенства *n.* 3. маска *f.*, выгляд -у *m.*: ***under the guise of friendship*** пад выглядам прыязьні. 4. Obsol. звычa|й -ю *m.*

**guitar** [gɪˈtɑ:r] n. гітара *f.*

**guitarist** [gɪˈtɑ:rɪst] n. гітарыст -а *m.*

**gulch** [gʌltʃ] n. глыбокі роў са стромкімі берагамі

**gulf** [gʌlf] – n. 1. затока *f.*, залі|ў -ву *m.*: ***the Gulf of Mexico*** Мэксыканская за-

тóка. 2. прадóньне *n.*, бéздань *f.*, бяздóньне *n.* 3. прóрва *f.*, прынцыпóвае разыхóджаньне; разры́|ў -ву *m.* (*сябróўства*). 4. вір -у *m.*
– v.t. 1. глытáць, паглынáць. 2. залівáць, затапля́ць

**gull I** [gʌl] n. чáйка *f.*; кáгарка *f.*

**gull II** [gʌl] – v.t. ашýкваць; абдýрваць
– n. прасьця́к -á *m.*, дýр|ань -ня *m.*, чалавéк, якóга лёгка абдуры́ць

**gullet** [ˈgʌlɪt] n. 1. стрававóд -у *m.* 2. гóрла *n.*, глóтка *f.* 3. вузкí яр; цясьнíна *f.* (*у гарáх*)

**gullibility** or **gullability** [ˌgʌləˈbɪləti] n. легкавéрнасьць, прастадýшнасьць, наíўнасьць *f.*

**gullible** [ˈgʌləbəl] adj. лёгкавéрны, наíўны, прастадýшны

**gully** [gʌli] – n., pl. **-lies** 1. вузкí яр, цясьнíна (*у гарáх*). 2. роў вы́мыты вадóю
– v.t. утварáць, вымывáць раві́, я́ры

**gulp** [gʌlp] – v.t. 1. хýтка *абó* прáгна глытáць. 2. глытáць, душы́ць (*сьлёзы, сьмех*); стры́мваць (*хвалявáньне*)
– v.i. задыхáцца; душы́цца
– n. 1. глытáньне *n.* 2. глыт|óк -кá *m.*

**gum I** [gʌm] – n. 1. камéдзь *f.* (*густы́ клéйкі сок некатóрых дрэ́ваў*). 2. смалíстае выдзялéньне (*смалá, жывíца*). 3. жýйка *f.*, жавáльная гýмка. 4. клей на канвэ́рце, мáрцы. 5. каўчýк -ý *m.*, гýма *f.* 6. камéднае дрэ́ва
– v.t. 1. склéйваць, клéіць; гумавáць, насычáць гýмай тканíну. 2. пэ́цкаць клéйкім рэ́чывам (*цукéркай*)
– v.i. выдзяля́ць смалý, клéіцца, рабíцца клéйкім

**gum II** [gʌm] – n. often **gums** дзяснá *f.*, *pl.* дзя́сны
– adj. дзя́сенны

**gum arabic** гуміарáбік -у *m.*

**gumboil** [ˈgʌmbɔɪl] n. флюс -у *m.*

**gummed stamp** (envelope, etc.) паштóвая мáрка (канвэ́рт) з клéем

**gummy** [ˈgʌmi] adj. 1. лíпкі, клéйкі, цягýчы, як смалá. 2. гумавáны. 3. які́ выдзяля́е смалý, жывíцу; смóльны, смалíсты. 4. апýхлы, напýхлы; ацёкшы

**gun** [gʌn] – n. 1. пáльная збрóя; гармáта *f.*; вінтóўка, стрэ́льба *f.* 2. Colloq. пісталéт -а *m.*, рэвальвэ́р -а *m.* 3. ***spray gun*** распыля́льнік -а *m.* (*супрóць машкары́*). 4. стрэл (*як сыгнáл абó салю́т*). 5. Brit. удзéльнік палявáньня. 6. Sl. злóдзе|й -я *m.*, кішэ́ньнік -а *m.*
– v.i. **(-nn-)** страля́ць, палявáць са стрэ́льбай
– v.t., Informal страля́ць, забівáць *абó* рáніць стрэ́льбай
• ***gun down*** а) зьбіць (*самалёт, птýшку*) б) разьбівáць, забівáць (*нéчую ініцыяты́ву абó намагáньні*)
• ***gun for*** а) пачáць агітáцыю за ці супрóць чагó. б) шукáць, старáцца атрымáць: ***to gun for support*** шукáць падтры́мкі. б) страля́ць, палявáць: ***He is out gunning for ducks*** Ён пайшóў палявáць на кáчак
• ***stick to one's guns*** трымáцца свайгó, не здавáць пазы́цыяў

**gunboat** [ˈgʌnboʊt] n. кананéрка *f.*

**gunfire** [ˈgʌnfaɪr] n. гармáтная страляніна, гармáтны агóнь

**gunman** [ˈgʌnmən] n., pl. **-men** 1. а) чалавéк, узбрóены стрэ́льбай. б) знавéц збрóі. 2. напáднік, банды́т -а *m.*, забóйц|а -ы *m. & f.*

**gunner** [ˈgʌnər] n. 1. каналíр -а *m.*, кулямётчы|к -а *m.*; артылеры́ст -а *m.* 2. паляўнíч|ы -ага *m.*

**gunnery** [ˈgʌnəri] n. 1. артылеры́йская спрáва. 2. страля́ньне з гармáтаў. 3. пáльная збрóя *coll.*

**gunpowder** [ˈgʌnˌpaʊdər] n. пóрах -у *m.*

**gunshot** [ˈgʌnʃɑːt] – n. 1. гармáтны стрэл. 2. далёкасьць стрэ́лу: ***within gunshot*** на адлéгласьці стрэ́лу
– adj. агнястрэ́льны: ***a gunshot wound*** рáна ад стрэ́лу

**gurgle** [ˈgɜːrgəl] – v.i. 1. бýлькаць; цурчáць, журчáць (*пра вадý*). 2. буркатáць: ***The baby gurgled happily*** Немаўля́тка вéсела буркатáла. 3. паласкáць рот
– n. бýльканьне, цурчэ́ньне вады́

**gush** [gʌʃ] – v.i. 1. хлы́нуць; ры́нуцца; палі́цца (*раптóўна*), пацячы́ патóкам. 2. Informal выліва́ць сваé пачу́цьці, выліва́цца
– n. 1. мóцны патóк (*вады́, на́фты, крыві́, сьлёзаў*). 2. вы́бух -у *m.* (*гнéву*). 3. Informal шчы́рае прызна́ньне, шчы́рыя гу́таркі
**gusher** [ˈgʌʃər] n. 1. на́фтавы фанта́н. 2. чалавéк, які́ бу́рна выяўля́е сваé пачу́цьці
**gushy** [ˈgʌʃi] adj. які́ выяўля́е сваé пачу́цьці; сэнтымэнта́льны
**gust** [gʌst] n. 1. пары́ў вéтру. 2. раптóўны лі́вень. 3. вы́бух гнéву, сьмéху, энтузія́зму
**gusto** [ˈgʌstoʊ] n., pl. **-tos** 1. гара́чае захаплéньне, ахвóта (*пра́цы*) 2. лю́басьць *f.*; ціка́васьць, схі́льнасьць *f.*; густ -у *m.* 3. мастáцкі стыль
**gusty** [ˈgʌsti] adj. бу́рны, бурлі́вы (*мóра*), пары́вісты (*вéцер*); вéтраны (*дзень*)
**gut** [gʌt] – n. 1. кі́шка *f.*; вантрóбы, трыбухі́ *pl.* 2. кетгут -у *m.* (*мóцныя ні́ткі з кі́шак авéчак, ужыва́ныя для вы́рабу стру́наў, тэ́нісных ракéтак і ў хіру́ргіі*)
– v.t., Informal 1. трыбушы́ць, патрашы́ць. 2. спусташа́ць, выпустóшваць
**guts** a) Sl. сі́ла вóлі, адва́жнасьць, вытрыва́ласьць *f.* б) вантрóбы *pl. only*, кі́шкі
**gutter** [ˈgʌtər] – n. 1. кана́ва *f.* 2. ры́на *f.*, вадасьцёк -у *m.* (*на да́ху*). 3. ра|вóк -ўка́, раўчу́к -á *m.*; жóлаб размы́ты вадóю. 4. Informal бéдны, бру́дны раён; падóнкі грама́дзтва
– v.t. рабі́ць раўчукі́, раўкі́; заклада́ць ры́ны
– v.i. аплыва́ць (*пра сьвéчку*)
**guttersnipe** [ˈgʌtərsnaɪp] n., Informal ву́лічнае дзіця́, беспрыту́льнік -а *m.*; чалавéк найніжэ́йшых сацыя́льных пластóў
**guttural** [ˈgʌtərəl] – adj. 1. гарлавы́; гарта́нны: ***deep guttural voice*** ні́зкі гарта́нны гóлас. 2. Phon. за́днепаднябéнны; вэля́рны
– n., Phon. вэля́рны зы́чны гук
**guy** [gaɪ] n. 1. Sl. хлап|éц -цá *m.*, хлапчы́н|а -ы *m.*, дзяцю́к дзецюка́ *m.* 2. дзівакава́ты чалавéк. 3. пу́дзіла, чу́чала *n.*
**guzzle** [ˈgʌzəl] – v. пра́гна піць, шмат піць (*гарэ́лкі*)
– n. 1. пітвó *n.*, напó|й -ю *m.*; сьпіртны́ напóй. 2. папóйка, п’я́нка *f.*, абжóрства і распу́ста
**guzzler** [ˈgʌzlər] n. п’я́ніц|а, абжóр|а -ы *m. & f.*; гуля́к|а -і *m.*, распу́сьнік -а *m.*
**gym** [dʒɪm] n., Informal *скарóт ад* **gymnasium**
**gymnasium** [dʒɪmˈneɪziəm] n., pl. **-siums, -sia** 1. гімнасты́чная за́ля. 2. гімнасты́чная шкóла. 3. [gɪmˈnɑːziəm] гімна́зія *f.*, сярэ́дняя шкóла
**gymnast** [ˈdʒɪmnæst] n. гімна́ст -а *m.*, гімна́стка *f.*
**gymnastic** [dʒɪmˈnæstɪk] or **gymnastical** [dʒɪmˈnæstɪkəl] adj. гімнасты́чны
**gymnastics** [dʒɪmˈnæstɪks] n., pl. гімна́стыка *f.*, фізы́чныя практыкава́ньні
**gynecological** [ˌgaɪnɪkəˈlɑːdʒɪkəl] adj. гінэкалягі́чны
**gynecologist** [ˌgaɪnəˈkɑːlədʒɪst] n. гінэкóляг -а *m.*
**gynecology** [ˌdʒaɪnɪˈkɑːlədʒi] n. гінэкалёгія *f.*
**gypseous** [ˈdʒɪpsiəs] adj. гі́псавы
**gypsum** [ˈdʒɪpsəm] – n. гіпс -у *m.*
– v.t. гіпсава́ць (*глéбу*)
**Gypsy** or **gypsy** [ˈdʒɪpsi] – n., pl. **-sies** 1. цыга́н -á *m.*, цыга́нка *f.* 2. цыга́нская мóва
– adj. цыга́нскі, як цыга́н
– v.i. 1. жыць па-цыга́нску. 2. прыма́ць удзéл у пі́кніку, маёўцы; ла́дзіць маёўку
**gyrate** [ˈdʒaɪreɪt] – v. круці́цца (*па кóле*), ру́хацца (*па сьпіра́лі*)
– adj., Bot. згóрнуты сьпіра́льлю
**gyroscope** [ˈdʒaɪrəskoʊp] n. гіраскóп -а *m.*

# H

**H, h** [eɪtʃ] n.,pl. **H 's, h's** *во́сьмая лі́тара англе́льскага альфабэ́ту*

**habit I** [ˈhæbɪt] – n. 1. звы́чка, прывы́чка *f.*, звы́чай -ю *m.*: ***the habit of smoking*** звы́чка куры́ць. 2. Biol. спо́саб ро́сту й развіцьця́ жывёліны ці расьлі́ны: ***a plant of trailing habit*** сьце́лістая расьлі́на

**habit II** [ˈhæbɪt] – n. а) мана́ская ра́са: ***to take the habit*** пастры́гчыся ў мана́хі, мана́шкі. б) амазо́нка (*да́мскі гарніту́р для язды́ на ко́нях*). в) Archaic адзе́ньне *n.*, убо́р -у *m.*

– v.t. апрана́ць, адзява́ць

**habitable** [ˈhæbətəbəl] adj. засе́лены, насе́лены; прыда́тны для жыльля́

**habitation** [ˌhæbɪˈteɪʃən] n. 1. жыльлё, жытло́ *n.*, кватэ́ра *f.* 2. жыльлё, жытло́, пражыва́ньне *n.*: ***Is this house fit for habitation?*** Ці гэ́ты дом прыго́дны для жыльля́?

**habitual** [həˈbɪtʃuəl] adj. 1. прывы́чны, звы́чны, звы́клы. 2. звыча́йны, заўсёдны: ***a habitual smile*** заўсёдная ўсьме́шка

**habituate** [həˈbɪtʃueɪt] v.t. 1. прывуча́ць; прызвыча́йваць. 2. ча́ста наве́дваць *што*, ча́ста быва́ць *дзе*

**habitude** [ˈhæbɪtu:d] n. 1. уласьці́васьць, асаблі́васьць *f.* 2. звы́чка, прывы́чка *f.*, на́вык -у *m.*

**hack I** [hæk] – v.t. 1. сячы́, рэ́заць няро́ўна, абы-я́к. 2. а) матыкава́ць. б) зраза́ць каля́ ко́раня

– v.i. 1. спрычыня́ць рэ́заную ра́ну. 2. ка́шляць сухі́м ка́шлем

– n. 1. а) рэ́заная ра́на. б) засе́чка на дрэ́ве. 2. прыла́да, сяке́ра *f.*; кі́рка, маты́ка *f.* 3. сухі́ ка́шаль

**hack II** [hæk] – n. 1. а) наёмны конь *ці* фурма́нка. б) Informal таксі́ *n., indecl.* 2. верхавы́ ці запражны́ конь. 3. кля́ча *f.* 4. літарату́рны падзёншчык, кампіля́тар -а *m.*

– v.i. 1. е́хаць ступо́ю. 2. Informal быць таксі́стам

– v.t. 1. рабі́ць бана́льным, зьбі́тым, шаблённым. 2. Informal пі́саць на кале́не

**hackle I** [ˈhækəl] – n. 1. *такс.* **hatchel, heckle** шчо́тка (*для часа́ньня лёну́, кано́пляў*). 2. пёр'е на шы́і пе́ўня і і́нш. пту́шак. 3. шту́чная прына́да (*для ры́бы*)

– v.t. часа́ць (*лён*)

• ***raise the hackles*** Informal насьцяро́жваць *каго́*, выкліка́ць падазрэ́ньне *або́* зло́сьць у *каго́*

**hackle II** [ˈhækəl] v. няро́ўна рэ́заць, сячы́ абы-я́к

**hackneyed** [ˈhæknid] adj. 1. зьбі́ты, шаблённы, бана́льны. 2. дасьве́дчаны; быва́лы

**haddock** [ˈhædək] n., pl. **-docks** or coll. **-dock** пі́кша *f.* (*ры́ба сямейства траско́вых*)

**haemorrhage** [ˈheməridʒ] n. *гл.* **hemorrhage**

**haft** [hæft] n. 1. ру́чка *f.*, тро́н|ак -ка *m.* (*нажа́, відэ́льца*); дзяржа́ньне *n.* 2. эфэ́с -а *m.* (*ша́блі, мяча́*)

**hag** [hæg] n. 1. карга́, каргота *f.* 2. ве́дзьма *f.*

**haggard** [ˈhægərd] – adj. 1. змардава́ны; зьнясі́лены, змарне́лы. 2. дзі́кі, непрыру́чаны (*пра ко́ршака*)
– n. ко́ршак

**haggle** [ˈhægəl] – v.i. таргава́цца
– v.t. 1. знахо́дзіць хі́бы ў тава́ры; чапля́цца. 2. няўме́ла рэ́заць

**hail I** [heɪl] – v.t. 1. віта́ць, віта́ць во́клічамі. 2. віта́ць, называ́ць, зваць: ***They hailed him leader*** Яны́ віта́лі яго́ як правадыра́. 3. аклі́каць
– n. 1. во́кліч прывіта́ньня, прывіта́ньне *n.* 2. во́клік- у *m.* (*на адле́гласьці чу́тнасьці го́ласу*)
– Interj., Poetic Віта́ньне! Прывіта́ньне!

**hail II** [heɪl] – n. град гра́ду *m.*
– v.i. 1. ***It hails*** Ідзе́ град. 2. сы́пацца гра́дам
– v.t. сы́пацць, закіда́ць (*як гра́дам*)

**hailstone** [ˈheɪlstoʊn] n. гра́дзіна *f.*, крупі́нка гра́ду

**hailstorm** [ˈheɪlstɔːrm] n. навальні́ца з гра́дам, вялі́кі град

**haily** [ˈheɪli] adj. гра́давы

**hair** [her] – n. 1. во́лас -а і -у *m.*; валас|о́к -ка́ *m.* 2. валасы́ *pl.*: ***to have one's hair done*** зрабі́ць фрызу́ру; ***to cut one's hair*** падстры́гчы валасы́. 3. поўсьць, шэрсьць *f.* (*жывёліны*); ворс -у *m.* 4. валаскі́, варсі́нкі (*на расьлі́нах*)
– adj. валася́ны; зро́блены з валасо́ў
• ***make one's hair stand on end*** мо́цна спало́хаць каго́-н.
• ***not to turn a hair*** і во́кам не мі́ргну́ць
• ***split hairs*** удава́цца ў падрабя́знасьці
• ***tear one's hair*** рва́ць на сабе́ валасы́ (*з ро́спачы і г.д.*).
• ***to a hair*** во́лас у во́лас, зусі́м падо́бны; якра́з
• ***within a hair's breadth*** на валасо́к, ве́льмі блі́зка

**hairbrush** [ˈherbrʌʃ] n. шчо́тка для валасо́ў

**haircut** [ˈherkʌt] n. стры́жка

**hairdo** [ˈherduː] n., pl. **-dos** фрызу́ра, прычо́ска *f.*

**hairdresser** [ˈherˌdresər] n. цыру́льнік -а *m.*, цыру́льніца *f.*

**haired** [herd] adj. валаса́ты, з валаса́мі

**hairless** [ˈherles] adj. безвало́сы

**hairline** [ˈherlaɪn] – n. 1. лі́нія валасо́ў на галаве́: ***receding hairline*** пача́так лы́сіны. 2. цяню́сенькая лі́нія. 3. ткані́на ў дро́бную пало́ску
– adj. ве́льмі ву́зенькі; ве́льмі блі́зкі

**hair net** се́тка для валасо́ў

**hair pin** шпі́лька *f.*

**hairy** [ˈheri] adj. валаса́ты, касма́ты, калма́ты

**hale I** [heɪl] adj. мо́цны, здаро́вы

**hale II** [heɪl] v.t. 1. цягну́ць сі́лай, валачы́; ту́заць. 2. змуша́ць (*ісьці́*), заця́гваць *куды́*

**half** [hæf] – n., pl. **halves** 1. пало́ва, палаві́на *f.*: ***three and a half years*** тры з пало́вай гады́; ***half a dollar*** паўдаля́ра; ***half a meter*** паўмэ́тра; ***by half*** нашма́т, зана́дта: ***He is the better player by half*** Ён нашма́т ле́пшы гуле́ц
– adj. 1. палаві́нны; які склада́е пало́ву: ***a half barrel*** паўбо́чкі. 2. няпо́ўны, частко́вы
– adv. 1. да пало́вы. 2. частко́ва, напало́ву: ***to speak half aloud*** гавары́ць напаўго́ласа. 3. ама́ль, блізу́, по́ў- (паў-); ***half dead from hunger*** паўмё́ртвы ад го́ладу

**half-and-half** [ˌhæfənˈhæf] – adj. 1. пало́ва на пало́ву. 2. ні ры́ба, ні мя́са; ні то́е, ні сё́е
– adv. у ро́ўнай прапо́рцыі
– n. 1. малако́ зьмяша́нае са сьмята́най. 2. Brit. мяша́ны алькаго́льны напо́й

**half-baked** [ˌhæfˈbeɪkt] adj. 1. недапе́чаны, паўсыры́. 2. Informal няпо́ўны, канчатко́ва не распрацава́ны (*плян*). 3. недасьве́дчаны. 4. Informal недапе́чаны, прыду́ркаваты

**half-blood** [ˈhæfblʌd] n. 1. зьмяша́ная кроў. 2. зво́дны брат *або́* зво́дная сястра́

**half-bred** [ˈhæfbred] adj. нечыстакро́ўны (*конь*)

**half-breed** [ˈhæfbri:d] n. 1. мяша́н|ец -ца, мэты́с -а *m.* 2. мяша́нец індзе́йскай і бе́лай ра́сы

**half-brother** зво́дны брат

**half-caste** [ˈhæfkæst] n. чалаве́к мяша́най ра́сы (*асабл. нашча́дак эўрапе́йца й азія́ткі*)

**half-hearted** [ˌhæfˈhɑ:rtəd] adj. нясьме́лы, неадва́жны, абыя́кавы *або́* без запа́лу: ***a half-hearted consent*** неахво́тная зго́да

**half-heartedly** adv. нерашу́ча, абыя́кава, без запа́лу

**half-hour** [ˌhæfˈaʊr] – n. паўгадзі́ны
– adj. паўгадзі́нны, які́ трыва́е паўгадзі́ны

**half-hourly** [ˌhæfˈaʊrli] – adj. паўгадзі́нны
– adv. ко́жнае паўгадзі́ны

**half-mast** [ˌhæfˈmæst] – adv. на паўма́чты: ***flag at half-mast*** сьцяг, спу́шчаны да пало́вы ма́чты
– v.t. спуска́ць сьцяг да пало́вы (*на знак жало́бы*)

**half moon** паўме́сяц -а *m.* , серп ме́сяца

**half-sister** зво́дная сястра́

**half-time** [ˈhæftaɪm] n. 1. Sport пало́ва гульні́, тайм -у *m.* 2. пало́ва звыча́йнага працо́ўнага ча́су

**halfway** [ˌhæfˈweɪ] – adv. 1. да пало́вы. 2. ***a rope reaching only halfway*** вяро́ўка дастае́ то́лькі да пало́вы. 3. напало́ву: ***The morning is halfway over*** міну́ла ўжо́ пало́ва ра́ніцы; ***to go or meet halfway*** сыйсьціся на поўдаро́зе, пагадзі́цца на *што*,ісьці́ на засту́пкі
– adj. 1. на поўдаро́зе. 2. недастатко́вы, няпо́ўны

**half-wit** [ˈhæfwɪt] n. 1. прыду́ркават|ы -ага *m.*, прыду́ркаватая *f.* 2. ду́р|ань -ня *m.*

**half-witted** [ˌhæfˈwɪtəd] adj. 1. прыду́ркаваты. 2. дурны́

**half-year** [ˌhæfˈjɪr] n. паўго́дзьдзе *n.*

**half-yearly** [ˌhæfˈjɪrli] – adj. паўгадо́вы
– adv. штопаўго́да, два разы́ на год

**halibut** [ˈhælɪbət] n., pl. **-buts** or coll **-but** па́лтус -а *m.*

**hall** [hɔ:l] n. 1. калідо́р -а *m.* 2. пярэ́дні пако́й; вэстыбю́л|ь -я *m.* 3. за́ля *f.*: ***concert hall*** канцэ́ртная за́ля. 4. дом для грама́дзкіх патрэ́баў. 5. Brit. унівэрсытэ́цкая стало́вая

**hallmark** [ˈhɔ:lmɑ:rk] n. 1. прабі́рнае кляймо́, про́ба *f.* (*зо́лата, срэ́бра*). 2. характэ́рны знак; адзна́ка *f.*

**hallo** [həˈloʊ] – interj. алё, здаро́ў!
– n. во́клік прывіта́ньня *або́* зьдзіўле́ньня

**hallucination** [həˌlu:sɪˈneɪʃən] n. галюцына́цыя *f.*

**hallway** [ˈhɔ:lweɪ] n. 1. калідо́р, калідо́рчык -а *m., dim.* 2. пярэ́дні пако́й

**halo** [ˈheɪloʊ] n., pl. **-los, -loes** 1. гало́ *n., indecl.* (*бліску́чы круг вако́л со́нца, ме́сяца*). 2. арэо́л -у *m.* (*сла́вы, прыгажо́сьці*). 3. арэо́л -а *m.*, німб -а *m.* (*на абразо́х сьвяты́х*)

**halt I** [hɔ:lt] – v.i. спыня́цца, затры́мвацца
– v.t. спыня́ць, затры́мваць
– n. прыпы́н|ак -ку *m.*

**halt II** [hɔ:lt] v.i. 1. сумнява́цца, вага́цца. 2. Archaic кульга́ць

**halter** [ˈhɔ:ltər] – n. 1. вяро́ўка *f.* (*для навя́званьня жывёлы*), по́вад -у *m.* (*пры абро́ці каня́*). 2. вяро́ўка зь пятлёю (*на шы́беніцы*). 3. сьмерць на шы́беніцы: ***to stretch a halter*** быць паве́шаным
– v.t. 1. прывя́зваць вяро́ўкай, по́вадам. 2. лаві́ць на арка́н *ці* ласо́. 3. ве́шаць (*чалаве́ка*)

**halve** [hæv] v.t. 1. дзялі́ць напала́м, дзялі́цца *чым* з *кім*. 2. скарача́ць напало́ву (*ко́шты, час*)

**halves** [hævz] n., pl. of **half** пало́вы *pl.*: ***to go halves*** дзялі́ць ро́ўна напала́м (*прыбы́ткі*)

**ham** [hæm] – n. 1. кумпя́к -á *m.*, шы́нка *f.* 2. сьвіны́ зад 3. ля́жка *f .*; сьцягно́ *n.*

(*частка нагі*). 4. Sl. слабы актор, слабая йгра. 5. радыёаматар -а *m.*
– v.t., v.i., Sl. кепска йграць ролю

**hamburger** ['hæm,bɜ:rgər] n. катлета *f.* (*найчасьцей ялавічная*), гамбургер -а *m.*

**hamlet** ['hæmlət] n. 1. пасёл|ак -ку *m.*, паселішча *n.*, маленькая вёсачка. 2. Brit. вёска без царквы

**hammer** ['hæmər] – n. 1. молат -а, малат|ок -ка *m.* 2. малаточ|ак -ка *m.* (*у розных мэханізмах*). 3. ударнік -а *m.* (*у пальнай зброі*). 4. Anat. малаточ|ак -ка *m.* (*вушная костачка*): ***to come or go under the hammer*** быць прададзеным з малатка (*на аўкцыёне*); ***hammer and tongs*** усімі сіламі
– v.t. 1. біць, заганяць, прыбіваць малатком. 2. каваць; зьбіваць (*як малатком*). 3. дзяўбці, убіваць: ***to hammer into one's head*** убіваць каму ў галаву. 4. дабівацца *чаго* вялікімі намаганьнямі: ***to hammer at*** упарта працаваць над *чым*
• ***hammer and sickle*** серп і молат
• ***hammer away*** далей рабіць нешта, працаваць над чым
• ***hammer out*** а) выкоўваць. б) расплюшчваць. в) выбіваць молатам. г) выясьняць

**hammered** ['hæmərd] adj. каваны (*срэбра*)

**hammock** ['hæmək] n. гамак -а *m.*

**hamper I** ['hæmpər] v.t. замінаць, перашкаджаць; тармазіць

**hamper II** ['hæmpər] n. вялікая кашолка зь вечкам: ***a hamper for dirty clothes*** кашолка для бруднае бялізны

**hamster** ['hæmstər] n., Zool. хамяк -а *m.*

**hamstring** ['hæmstrɪŋ] – n., Anat. каленныя сухажыльлі, паджылкі
– v.t. 1. калечыць, падрэзаўшы паджылкі. 2. нявечыць *каго*, псаваць. 3. паралізаваць, пазбаўляць здольнасьці дзейнічаць

**hamstrung** ['hæmstrʌŋ] v., *p.t.* and *p.p.* of **hamstring**

**hand** [hænd] – n. 1. рука *f.* (*кісьць*) 2. пярэдняя лапа 3. а) наняты работнік: ***a factory hand*** фабрычны работнік; ***a farm hand*** работнік сельскае гаспадаркі. б) марак -а *m.*, экіпаж, каманда вадаплава. 4. бок -у *m.*: ***At her left hand stood two men*** Зь левага боку ад яе стаялі два мужчыны. 5. гадзіньнікавая стрэлка 6. почырк -у *m.*; подпіс -у *m.* 7. воплескі *pl. only.* 8. здольнасьці *pl.*, умельства *n.*: ***at first hand*** зь першых рук, беспасрэдна ад *каго* (*даведацца, атрымаць*)
– v.t. перадаваць, уручаць
– adj. ручны
• ***at hand*** а) пад рукою, блізка. б) гатовы
• ***at second (third) hand*** з другіх (трэціх) рук, праз пасярэднікаў
• ***bind hand and foot*** а) зьвязаць рукі й ногі. б) зьвязаць па руках і нагах
• ***by hand*** ад рукі, ручным спосабам
• ***from hand to hand*** з рук у рукі, непасрэдна ад аднаго другому (*аддаць*)
• ***from hand to mouth*** з дня на дзень (*жыць*)
• ***give a hand*** дапамагчы
• ***hand and glove*** вельмі блізкі, у блізкай сувязі
• ***hand down*** перадаваць (*нашчадкам*)
• ***hand in*** уручыць, аддаць *каму* асабіста
• ***hand in hand*** рука ў руку, а) узяўшыся за рукі. б) супольна, дружна
• ***hand out*** выдаваць, раздаваць
• ***hand over*** а) аддаваць другому. б) выдаваць *каго каму*: ***Hand over your money!*** Аддавай грошы!
• ***hands down*** лёгка, без намаганьня
***hands off!*** рукі прэч! не чапай! не мяшайся!
• ***hands up!*** рукі ўгору!
• ***have one's hands full*** быць вельмі занятым
• ***in one's hand*** or ***hands*** пад чыёйсь апекай *або* чыімсь кіраўніцтвам
• ***join hands*** а) стацца супольнікамі б) ажаніцца
• ***lay hands on*** а) захапіць, забраць. б) арыштаваць. в) напасьці на *каго*

• ***off one's hands*** вы́йсьці з-пад чые́-небудзь апе́кі *або́* кірава́ньня

• ***on hand*** а) блі́зка б) гато́вы: ***cash on hand*** гато́ўка в) прысу́тны

• ***on one's hands*** на чыі́х-н. рука́х, пад апе́кай або́ на ўтрыма́ньні ў каго́-н.

• ***on the one hand*** з аднаго́ бо́ку

• ***on the other hand*** з друго́га бо́ку

• ***shake hands*** прывіта́цца, паці́снуўшы ру́кі; памíры́цца; пагадзі́цца

• ***take in hand*** а) узя́ць у свае́ ру́кі. б) заня́цца *чым*; заапекава́цца. в) стара́цца, намага́цца

• ***tie one's hands*** зьвяза́ць ру́кі, пазба́віць магчы́масьці зрабі́ць што-н.

• ***wash one's hands of*** умы́ць ру́кі, адмо́віцца ад адка́знасьці

**handbag** [ˈhændbæg] n. 1. жано́чая то́рбачка, су́мачка *f.* 2. саквая́ж -а *m.*, даро́жная то́рба

**handbill** [ˈhændbɪl] n. рэкля́мны лісто́к, улётка, лісто́ўка *f.*

**handbook** [ˈhændbʊk] n. 1. даве́днік -а *m.;* дапамо́жнік -а *m.*; падру́чнік -а *m.* 2. кні́жка-інфарма́тар для туры́стаў

**handcuffs** [ˈhændkʌfs] n. кайданкі́ *pl. only*

**handful** [ˈhændfʊl] n., pl. **-fuls** 1. жме́ня *f.*, пры́гаршчы *pl. only.* 2. мала́я ко́лькасьць, жме́ня, жме́нька *f.* (*жаўне́раў*). 3. ассо́ба або́ рэч, зь якóй ця́жка дава́ць ра́ды

**hand grenade** ручна́я грана́та

**handicap** [ˈhændikæp] – n. перашко́да, замі́нка *f.*

– v.t. ста́віць у невыго́днае стано́вішча, заміна́ць

**handicapped** [ˈhændikæpt] adj. скале́чаны; фізы́чна *або́* разумо́ва недаразьві́ты

**handicraft** [ˈhændikræft] n. 1. ручно́е ўме́льства. 2. рамяство́ *n.*, ручна́я рабо́та

**handkerchief** [ˈhæŋkərtʃɪf] n. 1. насо́ўка, наса́тка *f.* 2. хусьці́нка, ху́стачка на галаву́ *ці* шы́ю

**handle** [ˈhændəl] – n. 1. ру́чка *f.* (*у дзьвяра́х*) кля́мка *f.*, дзяржа́ньне *n.* (*нажа́, віда́льца*); тро́нкі *pl. only* (*до́лата*); калóдка, калóдачка *f.*; ву́ха, ву́шка *n.* (*збанка́, гаршка́*). 2. падста́ва, прычы́на, зачэ́пка *f.*: ***handle for gossip*** падста́ва для плётак

– v.t. 1. браць у ру́кі, трыма́ць, дакрана́цца рука́мі. 2. карыста́цца: ***to handle tools with ease and skill*** карыста́цца прыла́дамі зь лёгкасьцю й уме́льствам. 3. (oneself) трыма́ць (сябе́), паво́дзіцца. 4. дагляда́ць (*жывёлу, машы́ну*). 5. абыхо́дзіцца з *кім-чым.* 6. гандлява́ць *чым*

**handle bar,** often **handle bars** стырно́ -а́ *n.*, рул|ь -я́ *m.* (*ро́вара, матацы́кла*)

**handled** [ˈhændəld] adj. з ру́чкай, ву́шкам

**handleless** [ˈhændəlləs] adj. бяз ру́чкі

**handmade** [ˌhændˈmeɪd] adj. ручно́е рабо́ты

**handout** [ˈhændaʊt] n., Informal 1. мі́ласьць, мі́ласьціна, по́даўка *f.* 2. афіцы́йнае паведамле́ньне для прэ́сы; раздава́ная інфарма́цыя, рэкля́ма

**handrail** [ˈhændreɪl] n. по́руч|ань -ня *m.*; по́ручні, парэ́нчы, баля́сы *pl.* (*балько́на, схо́даў*)

**handshake** [ˈhændʃeɪk] – n. по́ціск рукі

– v.i. паціска́ць адзі́н аднаму́ руку́

**handsome** [ˈhænsəm] adj. 1. прыго́жы, харо́шы, згра́бны: ***a handsome man*** прыгажу́н -а́ *m.* 2. до́сыць вялі́кі, ла́дны: ***a handsome sum of money*** ла́дная су́ма гро́шай. 3. шчо́дры

**handspike** [ˈhændspaɪk] n. рыча́г -а́ *m.*

**handspring** [ˈhændsprɪŋ] n. 1. акрабаты́чнае пераку́льваньне на рука́х «ко́лам»: ***to turn handsprings*** пераку́львацца на рука́х

**hand-to-hand** [ˌhændtəˈhænd] adj. рукапа́шны: ***hand-to-hand fighting*** рукапа́шны бой

**handwriting** [ˈhændˌraɪtɪŋ] n. 1. піса́ньне ад рукí. 2. по́чырк -у *m.* 3. Archaic ру́капіс -у *m.*

**handy** [ˈhændi] adj. 1. зру́чны; карысны; выго́дны. 2. зру́чны ў карыс-

та́ньні, спры́тны, до́бры. 3. спры́тны да рабо́ты

**handyman** [ˈhændimæn] n., pl. **-men** ма́йстар на ўсе ру́кі

**hang** [hæŋ] – v.t. 1. ве́шаць (*паліто́*); падве́шваць (*каўба́сы*). 2. ве́шаць а) чалаве́ка. б) фіра́нкі, абразы́. 3. наве́шваць дзьве́ры (*на крукі́*). 4. ***to hang wallpaper*** клеі́ць шпале́ры. 5. апуска́ць, схіля́ць (*галаву́ ад со́раму*). 6. адклада́ць, адтэрміно́ўваць

– v.i. 1. вісе́ць, ві́снуць. 2. зьвіса́ць (*до́лу*); зьве́швацца

– n. 1. Informal сэнс -у *m.*, у чым спра́ва: ***to get the hang of*** зразуме́ць сэнс *чаго́*, зразуме́ць у чым спра́ва. 2. кры́ха, кры́шачка *f.*: ***to not care a hang*** ня дбаць ні кры́шачкі. 3. запаво́леньне *або́* спыне́ньне ру́ху

• ***hang about*** or ***around*** бо́ўтацца, плёнтацца, шво́ндацца; круці́цца

• ***hang back*** мару́дзіць, адця́гваць, адстава́ць

• ***Hang in there!*** Informal Трыма́йся!

• ***hang on*** а) мо́цна трыма́цца. б) зале́жаць ад *чаго́*. в) прыслухо́ўвацца ўва́жна да *каго́*

• ***hang out*** а) выве́шваць (*сьцяг*). б) вы́хіліцца, вы́сунуцца (*з акна́*). в) Sl. жыць, кватарава́ць; туля́цца

• ***hang together*** а) трыма́цца ра́зам. б) быць пасьлядо́ўным, зьвя́зным *або́* скла́дным

• ***hang up*** а) паве́сіць *што* (*на крук, вяша́к*). б) паве́сіць тэлефо́нную тру́бку. в) адклада́ць; затры́мваць

**hangar** [ˈhæŋər] n. анга́р -а *m.* (*для самалётаў*)

**hanger** [ˈhæŋər] n. 1. вяша́к вешака́ *m.*, ве́шалка *f.* 2. накле́йшчык -а *m.* (*афі́шаў, газэ́таў*)

**hanger-on** [ˌhæŋərˈɑ:n] n., pl. **hangers-on** 1. пасьлядо́ўнік -а *m.*, прыхі́льнік -а *m.*; зале́жны ад каго́сь утрыма́н|ец -ца *m.* 2. непажада́ны «хвост» (які́ высо́чвае каго́-н.)

**hanging** [ˈhæŋɪŋ] – n. 1. сьмерць праз паве́шаньне. 2. often pl. драпіро́ўка *f.* (*што́ры, фіра́нкі*)

– adj. 1. ***a hanging offence*** злачы́нства, якое вымага́е паве́шаньня. 2. паве́шаны, падве́шаны (*ля́мпа*). 3. падве́сны: ***hanging bridge*** падве́сны мост

**hangman** [ˈhæŋmən] n., pl. **-men** ве́шальнік, кат -а *m.*

**hangover** [ˈhæŋˌoʊvər] n. 1. перапо́|й -ю *m.* 2. Informal перажы́т|ак -ку *m.*, спа́дчына міну́лага

**hanker** [ˈhæŋkər] v.t. 1. (for) мо́цна хаце́ць, пра́гнуць *чаго́*. 2. (after) жада́ць, пра́гнуць *каго́*

**hankie** [ˈhæŋki] n., Informal наса́тка, насо́ўка, ху́стачка *f.*

**Hansard** [ ˈhænsərd] n. стэнагра́мы пасе́джаньняў брыта́нскага *або́* канады́йскага парля́мэнту

**hap** [hæp] – n., Archaic 1. наго́да *f.*, ша́н|ец -цу *m.*; шча́сьце *n.* 2. здарэ́ньне *n.*; вы́пад|ак -ку *m.*

– v.i. **happed, happing** здара́цца выпадко́ва

**haphazard** [ˌhæpˈhæzərd] – n. вы́пад|ак -ку *m.*

– adj. выпадко́вы; наздага́д, наўга́д, наўда́чу: ***haphazard answer*** адка́з наўда́чу

– adv. выпадко́ва; наздага́д, наўга́д, наўда́чу

**hapless** [ˈhæpləs] adj. няўда́члівы, нешчасьлі́вы: ***a hapless love affair*** нешчасьлі́вы рама́н

**happen** [ˈhæpən] v.i. 1. адбыва́цца: ***Nothing interesting happens here*** Нічо́га ціка́вага тут не адбыва́ецца 2. здара́цца; налуча́цца. 3. даво́дзіцца, мець шча́сьце *або́* наго́ду: ***I did not happen to see*** Мне не давяло́ся ба́чыць. 4. здара́цца, става́цца: ***Something must have happened to him*** Не́шта му́сіць зь ім ста́лася

• ***happen on*** а) сустрэ́ць выпадко́ва б) знайсьці́ выпадко́ва

**happening** [ˈhæpənɪŋ] n. здарэ́ньне *n.*, падзе́я *f.*

**happily** [ˈhæpɪli] adv. 1. шчасьлі́ва; ра́дасна; вясёла, ве́села. 2. адпаве́дна,

уда́ла: ***The letter was happily phrased*** Ліст быў уда́ла сфармулява́ны

**happiness** [ˈhæpinəs] n. 1. шча́сьце *n.*, задаво́ленасьць *f.* 2. уда́ча *f.*

**happy** [ˈhæpi] adj. 1. вясёлы, задаво́лены: ***to be happy*** це́шыцца, быць вясёлым. 2. шчасьлі́вы, шча́сны: ***by happy chance*** шчасьлі́вым вы́падкам. 3. уда́лы, до́бры; адпаве́дны

**harangue** [həˈræŋ] – n. 1. крыклі́вая прамо́ва, ара́цыя. 2. даўга́я напы́шлівая прамо́ва, тыра́да *f.* 3. зваро́т (*да зьезду*)

– v.t. зьвярта́цца з прамо́вай

**harass** [həˈræs] v.t. 1. трыво́жыць; дапяка́ць, дайма́ць (*во́рага*), назаля́ць безупы́нными, ча́стымі напа́дамі. 2. дакуча́ць, назаля́ць, му́чыць, турбава́ць

**harbinger** [ˈhɑ:rbɪndʒər] – n. вясту́н вестуна́ *m.*; прадве́сьнік -а *m.*, прадве́сьніца *f.*, пасланlе́ц -ца́ *m.*

– v.t. прадвяшча́ць

**harbor**, Brit. **harbour** [ˈhɑ:rbər] n. 1. пры́стань *f.*, порт -у *m.* 2. прыста́нішча *n.*, прыту́лlак -ку *m.*; схо́вань *f.*, схо́вішча *n.*

**hard** [ˈhɑ:rd] – adj. 1. цьвярды́, цьвёрды, тугі́ (*ву́зел*). 2. цяжкі́: ***a hard language to learn*** цяжка́я для вывучэ́ньня мо́ва; ***a hard man to get on*** цяжкі́ ў зно́сінах чалаве́к; ***a hard illness*** цяжка́я хваро́ба; ***a hard winter*** цяжка́я, суро́вая зіма́. 3. стро́гі, бязьлі́тасны; цьвярды́ (*сэ́рца*): ***a hard master*** стро́гі гаспада́р. 4. непрые́мны, рэ́зкі: ***a hard face*** непрые́мны твар; ***a hard laugh*** рэ́зкі сьмех. 5. стара́нны, шчы́ры (*працаўні́к*). 6. Phon. цьвёрды (*зы́чны*)

– adv. 1. цьвёрда, мо́цна: ***hard frozen*** мо́цна заме́рзлы (*рака́*). 2. ця́жка: ***to breathe hard*** ця́жка ды́хаць. 3. насі́лу, зь ця́жкасьцю. 4. мо́цна: ***to hit hard*** мо́цна ўда́рыць. 5. блі́зка: ***The house stands hard by the bridge*** Дом стаі́ць блі́зка да мо́ста

• ***be hard put*** мець ця́жкасьці

• ***be hard up*** быць у вялі́кай няста́чы гро́шай ці чаго́ і́ншага

• ***hard and fast*** раз і назаўсёды усталя́ваны, стро́га акрэ́сьлены

• ***hard of hearing*** глухава́ты

**hardback** [ˈhɑ:rdbæk] кні́га ў цьвёрдай во́кладцы

**hard-boiled** [ˌhɑ:rdˈbɔɪld] adj. 1. гу́ста зва́раны, круты́ (*я́йка*). 2. суро́вы, упа́рты (*хара́ктар, чалаве́к*)

**hard-bound** [ˈhɑ:rdbaʊnd] adj. у цьвёрдай во́кладцы, у цьвёрдым пераплёце

**hard cash** гато́ўка *f.*, ная́ўныя гро́шы

**hard currency** валю́та *f.*

**harden** [ˈhɑ:rdən] – v. 1. цьвярдзе́ць, рабі́цlь (-ца) цьвёрдым. 2. загарто́ўвацlь (-ца). 3. рабі́цlь (-ца) бязду́шным, бязьлі́тасным. 4. гартава́ць (*пра хара́ктар*)

– v.i. 1. расьці́, узраста́ць (*пра цэ́ны а́кцыяў*). 2. зацьвярдзява́ць

**hardened** [ˈhɑ:rdənd] adj. 1. агрубе́лы (*го́лас, нату́ра*), чэ́рствы; без душы́. 2. цьвёрды; загартава́ны. 3. зацьвярдзе́лы (*пра зы́чны*)

**hard-fisted** [ˌhɑ:rdˈfɪstɪd] adj. скупы́; жмі́ндзісты

**hard-headed** [ˌhɑ:rdˈhedɪd] adj. 1. практы́чны; развя́жлівы. 2. упа́рты, цьвердало́бы

**hard-hearted** [ˌhɑ:rdˈhɑ:rtəd] adj. бязьлі́тасны; лю́ты; без душы́, бязду́шны; нячу́лы

**hardily** [ˈhɑ:rdɪli] adv. адва́жна, сьме́ла; наха́бна

**hardiness** [ˈhɑ:rdinəs] n. 1. трыва́ласьць, моц *f.*; фізы́чная сі́ла. 2. адва́га *f.* 3. бесцырымо́ннасьць, наха́бства

**hard labor** ка́тарга *f.*

**hard liquor** мо́цны сьпіртны́ напо́й

**hardly** [ˈhɑ:rdli] adv. 1. ледзь, як то́лькі, ледзь то́лькі; насі́лу. 2. не зусі́м, наўра́д, малавераго́дна: ***His story is hardly true*** Яго́ная гісто́рыя наўра́д ці праўдзі́вая. 3. бада́й не: ***They will hardly come in all this rain*** Яны́ бада́й ня пры́йдуць у гэ́ткі дождж. 4.

насíлу, зь цяжкасьцю: ***money hardly earned*** цяжка заробленыя грошы 5. сурова; люта, бязьлітасна

**hard money** валюта *f.*

**hardness** [ˈhɑ:rdnəs] n. цьвёрдасьць *f.*

**hardpan** [ˈhɑ:rdpæn] n., 1. цьвёрдая падглеба *f.* 2. цьвёрды грунт, глеба. 3. найніжэйшы ўзровень

**hardship** [ˈhɑ:rdʃɪp] n. цяжкасьці *pl. only* ; нястачы *pl.*; нягоды *pl.*

**hardware** [ˈhɑ:rdwer] n. 1. жалезныя вырабы, скабяныя тавары: ***military hardware*** узбраеньне (*танкі, гарматы, самалёты*). 2. Comput. апаратнае забесьпячэньне, «жалеза»

**hardy I** [ˈhɑ:rdi] adj. 1. трывалы, вынósьлівы, цярплівы; моцны, здаровы 2. марозаўстойлівы (*расьліна*) 3. адважны 4. неразважлівы, легкадумны

**hardy II** [ˈhɑ:rdi] n., pl.**-dies** кавальскае зубіла

**hare** [her] n., pl. **hares** or coll. **hare** заяц зайца *m.*, зайчык -а *m., dim.*: ***a young hare*** зайчанё *n.*

**harebrained** [ˈherbreɪnd] adj. легкадумны, бяздумны; неразважлівы; недарэчны, бессэнсоўны (*плян*)

**harem** [ˈhærəm] n. гарэм -у *m.*

**haricot** [ˈhærɪkoʊ] n. 1. фасоля *f.* 2. рагу зь мяса й гародніны

**harken** [ˈhɑ:rkən] v. *гл.* **hearken**

**harlot** [ˈhɑ:rlət] n. блудніца, прастытутка, распусьніца *f.*

**harm** [hɑ:rm] – n. 1. шкода, страта *f.* 2. зло *n.*; крыўда *f.*; несправядлівасьць *f.*
– v.t. наносіць боль, калечыць, шкодзіць, крыўдзіць

**harmful** [ˈhɑ:rmfəl] adj. шкодны, шкадлівы; згубны, крыўдны

**harmless** [ˈhɑ:rmləs] adj. няшкодны (*пра чалавека*), бясшкодны (*сродак, вужака*)

**harmonious** [hɑ:rˈmoʊniəs] adj. 1. згодны, дружны. 2. суладны; стройны, гарманічны (*пра сьпеў, музыку*) 3. стройны, мілагучны; зладжаны (*пра галасы, верш*)

**harmony** [ˈhɑ:rməni] n., pl. **-nies** 1. згода *f.* 2. суладнасьць *f.*, суладзьдзе *n.* (*колераў*). 3. зладжанасьць, гарманічнасьць, гармонія *f.*

**harness** [ˈhɑ:rnəs] – n. 1. збруя *f.* 2. шлеечкі (*для ваджэньня малых дзяцей*). 3. Archaic баявое ўзбраеньне, амуніцыя *f.* (*ваяра, рыцара*)
– v.t. 1. накладаць збрую; запрагаць. 2. выкарыстоўваць (*раку, вадаспад, як крыніцу энэргіі*). 3. стрымваць, абмяжоўваць

**harp** [hɑ:rp] – n. арфа *f.*
– v.t. іграць на арфе
• ***harp on*** or ***upon*** назольна паўтараць тое самае

**harpoon** [ˌhɑ:rˈpu:n] n. гарпун -а *m.*: ***harpoon gun*** гарпунная гармата

**harrow** [ˈhæroʊ] – n. барана *f.*
– v.t. 1. баранаваць. 2. наносіць боль, мучыць

**harry** [ˈhæri] – v.t. 1. нападаць і рабаваць, пустошыць. 2. непакоіць, хвалявáць; турбаваць, мучыць
– n. 1. рабун|ак -ку *m.*, рабаваньне *n.* 2. турбота *f.*, хваляваньне *n.*, непакó|й -ю *m.*

**harsh** [hɑ:rʃ] adj. 1. грубы, грубы, шорсткі, шурпаты: ***a harsh towel*** грубы ручнік; ***harsh rind*** шурпатая скурка. 2. рэзкі, непрыемны: ***a harsh voice*** рэзкі голас. 3. даўкі, садкі (*на смак*). 4. крыклівы: ***a harsh painting*** крыклівая карціна. 5. неміласэрны, люты, суровы: ***a harsh man*** бязьлітасны чалавек. 6. суровы, стродкі. 7. пануры; пагражальны: ***a harsh expression*** пагражальны выраз. 8. пануры; пусты; непрывабны (*бераг*)

**hart** [hɑ:rt] n. алéн|ь -я *m.*

**hartshorn** [ˈhɑ:rtshɔ:rn] n. 1. алені рог *або* адросктак аленяга рога. 2. нашатырны сьпірт, нашатыр -у *m.*

**harvest** [ˈhɑ:rvɪst] n. 1. жніво *n.* (*збожжа*), збор -у *m.* (*садавіны, мёду*). 2. ураджá|й -ю *m.* 3. вынікі *pl. only*, плён -у *m.*

**harvester** [ˈhɑ:rvɪstər] n. 1. жняя *f.*; жнец жняца *m.* 2. жняярка, жнейка *f.* (*машына*)

**harvest fly** цыка́да *f.*

**harvest home** 1. кане́ц жніва́, дажы́нкі *pl. only.* 2. жні́ўная пе́сьня

**hash** [hæʃ] – n. 1. се́чанае мя́са; тушані́на. 2. бязла́дная мешані́на, блытані́на *f.* 3. непара́д|ак -ку *m.*, недарэ́чнасьць *f.*: ***to make a hash of a matter*** папсава́ць спра́ву; ***to settle one's hash*** а) прыму́сіць кагось змо́ўкнуць. б) расквіта́цца з кімсь

– v.t. 1. сячы́ на дро́бныя кава́лкі. 2. блы́таць, псава́ць *што*

**hashish** [ˈhæʃɪʃ] n. гашы́ш -у *m.*

**hasn't** [ˈhæzənt] = **has not**

**hasp** [hæsp] – n. за́шчапка, зашчэ́пка, кля́мка *f.*

– v.t. зашчапля́ць, зашчапі́ць

**hassle** [ˈhæsəl] – n., Informal змага́ньне *n.*, цягані́на *f.*: ***The legal hassle over his deportation is likely to stretch out for years*** Правава́я цягані́на ў спра́ве яго́нае дэпарта́цыі праўдападо́бна расьця́гнецца на гады́

– v.t. дапяка́ць ча́стымі напа́дкамі; му́чыць

**haste** [heɪst] n. 1. сьпех -у *m.*, пасьпе́шнасьць, сьпе́шка *f.* 2. пасьпе́х -у *m.*, празьме́рная ху́ткасьць: ***Haste makes waste*** Пасьпе́х — лю́дзям на сьмех. 3. пасьпе́шлівасьць, хапатлі́васьць *f.*, сьпех -у *m.*: ***in haste*** сьпе́хам; пасьпе́шліва, ве́льмі ху́тка; ***to make haste*** сьпяша́цца, пасьпяша́цца: ***to make haste to reply*** пасьпяша́цца адказа́ць

**hasten** [ˈheɪsən] – v.t. падганя́ць, прыско́рваць, прысьпе́шваць

– v.i. ху́тка спраўля́цца, сьпяша́цца

**hastily** [ˈheɪstɪli] adv. 1. сьпе́хам, насьпе́х; ху́тка, бо́рзда. 2. неабду́мана, неразва́жліва, на ху́ткую руку́; пасьпе́шліва, цапу́-лапу́

**hasty** [ˈheɪsti] adj. 1. пасьпе́шлівы, пасьпе́шны, ху́ткі. 2. неабду́маны, неразва́жлівы. 3. запа́льчывы, лёгка ўзбуджа́льны; зласьлі́вы: ***a hasty old man*** стары́ зласьлі́вец

**hat** [hæt] – n. капялю́ш капелюша́ *m.*, капялю́шык -а *m., dim.*: ***hat in hand*** а) зьня́ўшы капялю́ш для паша́ны. б) уго́дліва, лі́сьліва; ***to pass the hat*** зьбіра́ць ахвя́ры.

– v.t. адзява́ць капялю́ш

**hatch I** [hætʃ] – v.t. 1. высе́джваць (*курання́т*). 2. абду́мваць; заду́мваць, рыхтава́ць (*плян*); выно́шваць (*ідэ́ю*). 3. та́йна падрыхто́ўваць; рабі́ць змо́ву

– v.i. вылу́пліванца, выхо́дзіць (*зь я́йка*)

– n. высе́джваньне, выво́джаньне *n.*

**hatch II** [hætʃ] n. люк -а *m.*

**hatchel** [ˈhætʃəl] – n. шчо́тка для часа́ньня лёну, кано́плі

– v.t. 1. часа́ць (*лён*) шчо́ткай. 2. злава́ць, раздражня́ць; му́чыць

**hatchet** [ˈhætʃɪt] n. сяке́рка *f.*

**hate** [heɪt] – v.t. 1. ненаві́дзець. 2. ве́льмі не любі́ць: ***I hate to study*** Я не люблю́ вучы́цца; ***I hate to trouble you*** Мне ве́льмі непрые́мна турбава́ць вас

– n. няна́вісьць *f.*

– adj. які́ выклі́кае, се́е няна́вісьць: ***hate letter*** ліст, які́ се́е няна́вісьць

**hateful** [ˈheɪtfəl] adj. 1. ненаві́сны, ненаві́дны. 2. по́ўны няна́вісьці

**hatemonger** [ˈheɪtˌmʌŋər] n. ненаві́сьнік; чалаве́к, які́ се́е няна́вісьць

**hater** [ˈheɪtər] n. ненаві́сьнік -а *m.*, ненаві́сьніца *f.*

**hatred** [ˈheɪtrɪd] n. няна́вісьць *f.*

**hatter** [ˈhætər] n. капялю́шнік -а *m.*, капялю́шніца *f.*

**haughtiness** [ˈhɔ:tinəs] n. ганары́стасьць, фанабэ́рыстасьць; пы́ха, напы́шлівасьць *f.*

**haughty** [ˈhɔ:ti] adj. пагардлі́вы, ганары́сты, фанабэ́рысты, напы́шлівы (*вы́гляд, усьме́шка*); пыхлі́вы

**haul** [hɔ:l] – v.t. 1. а) цягну́ць, валачы́. б) перавóзіць. 2. мяня́ць кіру́нак (*пра параплáў, ве́цер*). 3. мяня́ць кіру́нак сваё дзе́йнасьці

– n. 1. ця́га *f.*; выця́гваньне (*не́рата*). 2. перавóз -у *m.*, перавóзка *f.* 3. здабы́ча *f.*; то́ня *f.* (*уло́ў ад аднаго́ за́кіду не́рата*). 3. Informal трафе́й -я *m.*

**haulage** [ˈhɔːlɪdʒ] n. 1. цяга *f.*, рухаючая сіла, буксіроўка *f.* 2. перавоз -у *m.* 3. кошт перавозу

**haunch** [hɔːntʃ] n. 1. ляжка *f.*, сьцягно *n., pl.* сьцёгны. 2. сьцягно *n.*, кумпяк -а *m.* (*у жывёліны*): ***haunch bone*** бядровая косьць

**haunt** [hɔːnt] – v.t. 1. часта наведваць. 2. зьяўляцца (*пра здані*). 3. часта прыходзіць, не даваць спакою, гнясьці (*пра думку, успаміны*)
– n. 1. прытулак, улюбёнае месца. 2. прытон -у *m.* (*зладзейскі*)

**haunted** [ˈhɔːntəd] adj. 1. наведваны прывідамі. 2. неспакойны, устурбаваны; устрывожаны; прасьледаваны зданямі

**hautboy** [ˈhoʊbɔɪ] n. габоі́й -я *m.*

**have** [hæv; *unstressed* həv], **he has; had** 1. мець: ***He has a big house*** Ён мае вялікі дом; ***To have dark hair*** Мець цёмныя валасы; ***The year has twelve months*** Год мае дванаццаць месяцаў. 2. трымаць: ***I have a gun in my hand*** Я трымаю стрэльбу ў руцэ. 3. ***Have him shut the door*** Няхай ён зачыніць дзьверы. 4. павінен, павінна; мусіць: ***He has to go to the dentist*** Ён павінен схадзіць да дантыста 5. дазваляць, цярпець: ***He won't have any noise while he is reading*** Ён не дазваляе ніякага гоману, калі чытае. 6. (*дапаможны дзеяслоў ужываны для ўтварэньня пэрфэктных формаў*): ***They have come*** Яны (ужо) прыйшлі; ***He will have done it by 6 o'clock*** Ён (ужо) зробіць гэта каля шостае гадзіны; ***He had his leg broken*** Ён зламаў нагу. 7. Informal а) ***I have got*** я маю. б) ***She has got a cold*** Яна застудзілася. в) ***He has got to go there*** Ён мусіў ісьці туды; ***I have a headache (toothache)*** Мне баліць галава (зуб)
• ***Have a pleasant time*** Прыемна бавіць час
• ***Have a seat*** сядай, калі ласка!
• ***have a smoke*** пакурыць
• ***Have a talk with him*** Пагавары зь ім
• ***have a walk*** прайсьціся
• ***have breakfast (lunch, supper)*** сьнедаць (палуднаваць, вячэраць)
• ***have it out*** у спрэчцы выявіць прычыну нязгоды
• ***Have no fear!*** Ня бойся!
• ***have on*** быць апранутым у *што*, быць у *чым*: ***She had a new dress on*** Яна была ў новай сукенцы
• ***have tea*** піць гарбату
• ***have trouble with smth*** мець з чымн. клопат
• ***have to do with*** а) мець дачыненьне да *каго-чаго*. б) быць кампаньёнам

**haven** [ˈheɪvən] – n. 1. гавань, прыстань *f.*, бухта *f.* 2. прыпынішча *n.*, прыпынlак, прытулlак -ку *m.*
– v.t. 1. ставіць карабель у порт. 2. даваць прытулак

**havoc** [ˈhævək] – n. спусташэньне, разбурэньне, зьнішчэньне
– v. пустошыць, разбураць

**haw** [hɔː] n. чырвоная ягада глогу

**hawk I** [hɔːk] – n. 1. ястраб -а *m.*, коршак -а, каршак -а *m.* 2. іншыя драпежныя птушкі (*напр. сокал*). 3. драпежнік -а *m.* (*пра чалавека*)
– v.t. 1. паляваць зь ястрабам *або* сокалам. 2. налятаць, як ястраб

**hawk II** [hɔːk] v.t. 1. гандляваць у разнос (*разносячы тавары па хатах, вуліцах*). 2. распаўсюджваць, разносіць весткі

**hawk III** [hɔːk] – v.i. 1. адкашлівацца. 2. адхарквацца
– n. адкашліваньне, адхаркваньне *n.*

**hawk IV** [hɔːk] n. кельня *f.* (*муляра*)

**hawker I** [ˈhɔːkər] n. вулічны гандляр

**hawker II** [ˈhɔːkər] n. паляўнічы зь ястрабам ці сокалам, сакольнік -а *m.*

**hawk-eyed** [ˈhɔːkaɪd] adj. з сакаліным зрокам, з вострым зрокам

**hawk-nosed** [ˈhɔːknoʊzd] adj. з арліным носам, з гарбатым *або* кручкаватым носам

**hawthorn** [ˈhɔːθɔːrn] n. глог -у *m.*

**hay** [heɪ] n. сена *n.*; канюшына на корм: ***to make hay*** а) касіць і сушыць сена.

б) Figur. карыстáць з нагóды, ня трáціць чáсу: ***make hay while the sun shines*** касí касá, пакýль расá

• ***hit the hay*** лéгчы спаць

• ***make hay of*** а) удáрам звалíць з ног працíўніка (*у бóксе*). б) раскíдаць, перавярнýць

**haycock** [ˈheɪkɑ:k] n. капá сéна

**hay fever** сяннáя ліхамáнка

**hayfield** [ˈheɪfi:ld] n. сенажáць *f.*

**hayfork** [ˈheɪfɔ:rk] n. 1. вíлы *pl. only*. 2. сенавалакýша *f.* (*машы́на для зграбáньня сéна*)

**hayloft** [ˈheɪlɔ:ft] n. вы́шкі на сéна, сеновáл -у *m.*

**haymaker** [ˈheɪˌmeɪkər] n. 1. грабéльнік -а, граб|éц -цá *m.*, грабéльніца *f.* 2. сенаразьбівáлка *f.* (*машы́на*)

**haymaking** [ˈheɪˌmeɪkɪŋ] n. касавíца, касьбá *f.*

**hayrake** [ˈheɪreɪk] n. 1. грáблі *pl. only.* 2. кóнная грабíлка

**hayrick** [ˈheɪrɪk] n. or **haystack** [ˈheɪstæk] n. стог сéна, стаж|óк -кá *m.*, *dim.*

**hazard** [ˈhæzərd] – n. 1. ры́зыка *f.* стрáты, шкóды *pl.*; небясьпéка *f.* 2. шáн|ец -цу *m.* 3. азáрт -у *m.*: ***game of hazard*** азáртная гульня́; ***at all hazards*** што б там ні былó, рызыкýючы ўсíм

– v.t. рызыкавáць

**hazardous** [ˈhæzərdəs] adj. небясьпéчны; рызыкóўны, зьвя́заны з ры́зыкай

**haze** [heɪz] – n. 1. смугá, імглá *f.* 2. ня́яснасьць рóзуму *абó* дýмкі

– v.t. засмýжваць, зацягваць смугóю; замгля́ць, затумáньваць

**hazel** [ˈheɪzəl] n. 1. арэ́шнік -у *m.* (*зáрасьнік*), ляшчэ́ўнік, ляшчы́ньнік -у *m.* 2. (*ляшчы́навы*) арэ́х -а *m.* 3. ляшчы́навы кíй

**haziness** [ˈheɪzinəs] n. імглíстасьць, засмýжанасьць *f.*

**hazy** [ˈheɪzi] adj. засмýжаны, зацягнуты ды́мкай, смугóй; імглíсты

**H-bomb** [ˈeɪtʃbɑ:m] n. вадарóдная бóмба

**he** [hi:] – pron. ён.

– n. хлап|éц -цá, мужчы́н|а -ы *m.*, жывёліна мужчы́нскага рóду; ***he-*** (*у складáных слóвах абазначáе самцá*): ***he-duck*** кáчар -а *m.*: ***he-goat*** каз|ёл -лá *m.*

**head** [hed] – n. 1. галавá, галóўка *f.*, *dim.* 2. вéрхняя чáстка, верх -у *m.* (*бачы́ны, схóдаў*). 3. пéрад -у *m.*: ***the head of the procession (ship)*** пéрад працэ́сіі (карабля́). 4. галавá *f.* (*сям'í*), кíраўнíк -á *m.* (*шкóлы*); правады́р -á *m.*; камáндуючы -ага *m.* (*вóйскам*). 5. чалавéк -а *m.*; галавá жывёлы: ***5 dollars per*** or ***a head*** па пяць даля́раў на чалавéка; ***ten head of cattle*** дзéсяць галóў жывёлы. 6. качáн -á *m.*, галóўка *f.*: ***a head of cabbage*** качáн капýсты; ***a head of lettuce*** галóўка салáты. 7. узгалóўе *n.* (*лóжка, канáпы*). 8. галавá *f.*, рóзум -у *m.*, здóльнасьць *f.*: ***He has a good head for mathematics*** Ён мáе дóбрыя здóльнасьці да матэмáтыкі. 9. мыс -а *m.*; вытóк -у *m.* 10. ***heads,*** pl. вéрхні бок манэ́ты, ар|óл -лá *m.*: ***heads or tails*** арóл абó рэ́шка

– v.t. 1. а) быць напéрадзе, на чалé (*парáду*): ***to head the list*** а) быць на пéршым мéсцы. б) перавышáць, перасягáць, пабíць: ***He heads all the records*** Ён пабíў усé рэкóрды. 2. накірóўваць. 3. кіравáць, узначáльваць, стая́ць на чалé. 4. адразáць галавý: ***to head and gut fish*** адрэ́заць галавý і вы́патрашыць ры́біну

– v.i. 1. ісьцí, кіравáцца. 2. (for) наблíжáцца (*да катастрóфы*)

– adj. 1. пярэ́дні. 2. сустрэ́чны (*вéцер, агóнь*). 3. галóўны, кірýючы. 4. галаўны́, на галавý

• ***at the head*** на чалé

• ***head and shoulders*** на галавý (*вышэ́йшы*), знáчна, вéльмі шмат

• ***head over heels*** а) кулём. б) сьпéхам; стрымгалóў. в) зусíм; даклáдна

• ***keep one's head above water*** а) трымáцца на павéрхні. б) спраўля́цца зь ця́жкасьцямі, унíкаць няўдáчаў, стрáтаў

• ***lay (put) heads together*** а) рáіцца, рáдзіцца. б) рабíць змóву; кансьпіравáць

• ***lose one's head*** усхвалявáцца; трáціць галавý, губляцца

• ***make head*** рýхацца, прахóдзіць, ісьці напéрад

• ***make head or tail of*** разьбірáцца, разумéць: ***I could make neither head nor tail*** Я нічóга ня мог зразумéць

• ***off*** or ***out of one's head*** вар'ят -а *m.*

• ***over head and ears*** а) з галавóю ў вадзé. б) па сáмыя вýшы, вéльмі глыбóка, мóцна (*напр. закахáны, у даўгóх*)

• ***talk one's head off*** гаварыць без упынку, не сьціхáючы

• ***turn one's head*** а) закруціць галавý камýсь. б) павярнýць галавý

**headache** [ˈhedeɪk] n. 1. галаўны боль. 2. Informal вялікі клóпат, згрызóта, непрыéмнасьць *f.*

**headdress** [ˈheddres] n. 1. галаўны ўбóр. 2. фрызýра, прычóска *f.*

**heading** [ˈhedɪŋ] n. загалóлвак -ўку *m.*, нáдпіс -у *m.*

**headland** [ˈhedlənd] n. 1. мыс -а *m.* 2. незааpáны канéц загóну

**headless** [ˈhedləs] adj. 1. безгалóвы. 2. без правадырá. 3. без галавы, неразýмны, дурны

**headlight** [ˈhedlaɪt] n. 1. фáра *f.* (*аўтамабіля*), пярэдні ліхтáр (*лякаматыва*). 2. ліхтáр на мáчце вадаплáва

**headline** [ˈhedlaɪn] n. 1. тытул, загалóлвак -ўку *m.* у газэце. 2. pl. карóткі зьмест апóшніх вéстак (*у рáдыё*)

**headlong** [ˈhedlɔ:ŋ] – adv. 1. кулём, напралóм, на скрут галавы. 2. насьпéх, не падýмаўшы; неабдýмана

– adj. 1. нястрымны, бýрны. 2. стрóмкі (*спад вады*)

**headmaster** [ˌhedˈmæstər] n. дырэктар шкóлы (*асабл. прыватнай*)

**headmost** [ˈhedmoʊst] adj. пéршы; перадавы; галóўны, сáмы вáжны

**head nurse** стáршая сястрá (*у шпітáлі*)

**head-on** [ˌhedˈɑ:n] adj., adv. 1. галавóй; пярэдняй чáсткай, нóсам; лоб у лоб: ***a head-on collision*** сутыкнéньне лоб у лоб, лабавóе сутыкнéньне. 2. насьпéх; неабдýмана

**headphone** [ˈhedfoʊn] n. навýшнікі *pl.*,

**headquarters** [ˈhedˌkwɔ:rtərz] n., pl. or sing. 1. Milit. штаб -у *m.*, штаб-кватэра *f.*; óрган кіравáньня. 2. галóўнае кіраўніцтва, цэнтлар -ру *m.*

**headstrong** [ˈhedstrɔ:ŋ] adj. упáрты, незгавóрлівы; самавóльны

**headway** [ˈhedweɪ] n. 1. рух напéрад (*вадаплáва*). 2. пóступ -у *m.*

**head word** загалóўнае слóва

**heady** [ˈhedi] adj. 1. пасьпéшлівы, хýткі. 2. мóцны, п'янкі (*віно*); галавакрýжны (*пра вышыню*)

**heal** [hi:l] – v.t. 1. лячыць, вылéчваць (*хварóбу*), гаіць, загóйваць (*рáну*). 2. ачышчáць (*вадý*)

– v.i. гаіцца, загóйвацца: ***The fractured bone soon healed*** Зламáная косьць хýтка загаілася

**healer** [ˈhi:lər] n. лéкар -а *m.*; знáхар -а *m.*

**healing** [ˈhi:lɪŋ] – adj. гаючы; дабратвóрны; лячэбны, выратавáльны: ***the healing process*** працэс гаéньня

– n. гаéньне *n.*

**health** [helθ] n. 1. здарóўе *n.*: ***poor health*** благóе здарóўе. 2. тост за чыё-н. здарóўе: ***We all drank the health of the bride*** Мы ўсé выпілі за здарóўе маладóе. 3. дабрó *n.*, дабрабыт -у *m.*

**healthful** [ˈhelθfəl] adj. здарóвы; які дае здарóўе

**health insurance** страхавáньне здарóўя, страхóўка *f.*

**health resort** курóрт -у *m.*

**healthy** [ˈhelθi] adj. здарóвы

**heap** [hi:p] – n. 1. кýча *f.*; сьціртa *f.* (*дроваў, дóшак*). 2. Informal шмат, мáса *f.*: ***a heap of money (people)*** мáса грóшай (людзéй)

– v.t. 1. складáць на кýчу, на сьціргу. 2. пóўна накладáць; нагружáць. 3. асыпáць, закідваць (*пахвалáмі, падарýнкамі*)

– v.i. ***to heap up*** намятáць гýрбы (*сьнéгу, пяскý*)

**hear** [hɪr] **heard** [hɜ:rd] – v.t. 1. чуць: ***one can hear*** чувáць. 2. слýхаць, вы-

слухóўваць (*скáргу, парáду*): ***he will not hear of it*** ён і слýхаць пра гэ́та не захóча. 3. слýхаць, праслухóўваць (*лéкцыю, канцэ́рт*). 4. чýць (*вéстку*), давéдвацца пра *што*

– v.i. мець вéстку, ліст ад *кагó*: ***Have you heard from your brother?*** Ці вы мéлі якíя вéсткі ад брáта?

– interj. ***hear! hear!*** слýшна! прáвільна!

• ***hear out*** вы́слухаць да канцá

**heard** [hɜ:rd] v.t., *p.t. and p.p. of* **hear**: ***Songs were heard from afar*** Здалёку чýліся пéсьні

**hearer** [ˈhɪrər] n. слухáч -á *m.*, слухáчка *f.*

**hearing** [ˈhɪrɪŋ] n. 1. слых -у *m.*; чýтнасьць *f.* : ***His hearing is poor*** Ён мáе слабы́ слых; ***out of hearing*** за мяжóй чýтнасьці; ***within hearing*** у мéжах чýтнасьці. 2. слýханьне *n.*, разгля́д -у *m.* (*спрáвы*)

**hearing aid** слыхавы́ апарáт

**hearken** [ˈhɑ:rkən] – v.i. слýхаць, прыслухóўвацца да *кагó-чагó*

– v.t. слýхаць увáжліва, вучы́цца пазнавáць на слых

**hearsay** [ˈhɪrseɪ] n. чýтка, пагалóска, пóчутка *f.*, пóгалас -у *m.*; плётка *f.*

**hearse** [hɜ:rs] n. катафáлк -а *m.*; пахавáльная калясьнíца, аўтамабíль

**heart** [hɑ:rt] n. 1. сэ́рца *n.*, *fig.* душá *f.*: ***She has a kind heart*** Янá мáе дóбрае сэ́рца; ***His heart sank*** У ягó сэ́рца замéрла; ***to give one's heart*** аддáць сэ́рца, палюбíць *кагó-што.* 2. адвáга, мýжнасьць *f.*, запáл -у *m.*: ***to lose heart*** пáдаць дýхам. 3. сярэ́дняя чáстка, сярэ́дзіна *f.*: ***heart of the forest*** нéтры лéсу: ***heart of oak*** стры́жань дýба. 4. сýтнасьць *f.*: ***the very heart of the matter*** сáмая сýтнасьць спрáвы. 5. чы́рвы (*у кáртах*)

• ***at heart*** у глыбінí душы́

• ***by heart*** напáмяць

• ***from one's heart*** ад усёй душы́, шчы́ра

• ***have one's heart in one's boots*** or ***mouth*** мець душý ў пя́тках, быць у вялíкім стрáху

• ***heart and soul*** усёй душóй і сэ́рцам

• ***near to one's heart*** блíзкі сэ́рцу, вéльмі вáртасны

• ***take heart*** мужáцца, падбадзёрвацца

• ***take to heart*** павáжна дýмаць пра *што*; браць блíзка да сэ́рца, праймáцца

• ***to one's heart's content*** удóсталь, кóлькі хóчаш

• ***with all one's heart*** а) шчы́ра. б) з дарагóй душóй, ахвóтна

**heartache** [ˈhɑ:rteɪk] n. гóра *n.*, смýт|ак -ку *m.*; боль душы́

**heart attack** сардэ́чны прыпáдак

**heartbeat** [ˈhɑ:rtbi:t] n. пульсáцыя, пульс -у *m.*, біцьцё сэ́рца

**heartbreak** [ˈhɑ:rtbreɪk] n. вялíкі боль, згрызóта *f.*, душэ́ўныя пакýты

**heartbreaking** [ˈhɑ:rtbreɪkɪŋ] adj. які́ надрывáе душý, балю́чы; журбóтны

**heartburn** [ ˈhɑ:rtbɜ:rn] n. пячáйка, пякóтка *f.*

**hearten** [ˈhɑ:rtən] v.t. падбадзёрваць

**heart failure** парóк сэ́рца (*спынéньне дзéяньня сэ́рца*)

**heartfelt** [ˈhɑ:rtfelt] adj. глыбóкі (*пра пачуцьцё*), шчы́ры; сардэ́чны (*спачувáньне*)

**hearth** [hɑ:rθ] n. 1. чарэ́нь *f.*, под -у *m.* (*пéчы, камíна*). 2. хáтні агмéнь, рóдная хáта

**heartily** [ˈhɑ:rtɪli] adv. 1. сардэ́чна, шчы́ра, цёпла, прыя́зна. 2. ахвóтна; руплíва, дбáйна, з запáлам (*працавáць*). 3. з апэты́там (*éсьці*). 4. цáлкам

**heartless** [ˈhɑ:rtləs] adj. 1. бяздýшны, бяз сэ́рца, лю́ты. 2. неадвáжны, вя́лы, без запáлу

**heart murmur** шумы́ ў сэ́рцы

**heartsick** [ˈhɑ:rtsɪk] adj. заняпáлы дýхам, мóцна прыгнéчаны *абó* нешчасьлíвы

**heart-to-heart** [ˌhɑ:rttəˈhɑ:rt] adv. шчы́ра, адкры́та (*пагаворы́ць*), ад душы́, душá ў душý

**hearty** [ˈhɑ:rti] adj. 1. сардэ́чны, цёплы й прыя́зны; вéтлы, гасьцíнны. 2. мóц-

ны, здаро́вы. 3. го́ласны, шчы́ры (*сьмех*). 4. (*пра е́жу*) вялі́кі, бага́ты, сы́тны: ***to have a hearty meal*** сы́тна пад'е́сьці. 5. сы́тны, пажы́ўны (*пра е́жу*). 6. ураджа́йны (*пра зямлю́*)

**heat** [hi:t] – n. 1. гарачыня́ *f.*; сьпяко́та, сьпёка *f.*; гара́чка *f.* (*у хво́рага*). 2. Phys. цеплыня́, цеплаёмкасьць *f.* 3. гнеĺў -ву *m.*; запа́л -у *m.*; заўзя́тасьць, усхвалява́насьць *f.* 4. пэры́яд це́чкі (*у жывёлаў*)

– v.t. 1. а) аграва́ць, аціпля́ць: ***to heat the house*** аціпля́ць ха́ту. б) ***to heat the oven*** палі́ць у пе́чы. 2. падаграва́ць (*е́жу*). 3. разгара́чыць; усхваляваць

– v.i. 1. падаграва́цца: ***The soup is heating slowly*** Суп паво́лі падагрэ́ецца. 2. усхвалява́цца

**heated** [ˈhi:təd] adj. 1. гара́чы; нагрэ́ты; падагрэ́ты; узбу́раны, усхвалява́ны. 2. зло́сны; заўзя́ты (*пра спрэ́чку*)

**heatedly** [ˈhi:tədli] adv. 1. го́рача; зло́сна; усхвалява́на: ***to speak heatedly*** гавары́ць го́рача, усхвалява́на *або́* са зло́сьцю

**heater** [ˈhi:tər] n. абаграва́льнік -а *m.* (*электры́чны*); радыя́тар -а *m.*

**heath** [hi:θ] n., Brit. 1. пустэ́ча, паро́слая нізкім за́расьнікам. 2. усяля́кі хмыз, што расьце́ на пустэ́чы. 3. ве́рас -у *m.*

• ***one's native heath*** радзі́ма *f.*, ро́дны кут

**heath bell** цьвет ве́расу

**heathberry** [ˈhi:θberi] n., pl. **-ries** я́гады, што расту́ць на пустэ́чах (*як брусні́цы, багро́ўка*)

**heath cock** цецяру́к цецерука́ *m.*

**heathen** [ˈhi:ðən] – n., pl. **-thens, -then** пага́нlец -ца *m., pl.*, пага́нцы, пага́нка *f.*

– adj. пага́нскі

**heathenish** [ˈhi:ðənɪʃ] adj. пага́нскай культу́ры

**heather** [ˈheðər] n. ве́рас -у *m.*

**heating** [ˈhi:tɪŋ] – n. аціплє́ньне, аграва́ньне *n.*: ***central heating*** цэнтра́льнае аціпле́ньне

– adj. аціпля́льны, аграва́льны

**heatproof** [ˈhi:tpru:f] or **heat-resistant** [ˌhi:trɪˈzɪstənt] adj. цеплаўсто́йлівы

**heat unit** адзі́нка вымярэ́ньня цяплыні́

**heat wave** гара́чая хва́ля

**heave** [hi:v] – v.t. **heaved** or **hove, heaving** 1. падыма́ць (*цяжа́р*); уздыма́ць. 2. кіда́ць, шпурля́ць (*ка́мень*), кіда́ць (*я́кар*). 3. Naut. падыма́ць (*я́кар*), цягну́ць (*кана́т*); ***to heave a sigh*** ця́жка ўздыха́ць

– v.i. 1. уздыма́цца й апада́ць (*пра хва́лі, гру́дзі*). 2. ця́жка ды́хаць, лаві́ць дух, задыха́цца 3. напіна́цца; напру́жвацца, ту́жыцца (*як пры ванітава́ньні*). 4. выпу́чвацца: ***to heave in sight*** паказа́цца на даляглядзе

– n. 1. пад'ём -у *m.*; кіда́ньне *n.*, кідlо́к -ка́ *m.*

– interj. ***heave ho!*** ра́зам, узялі́

**heaven** [ˈhevən] n. не́ба *n.*, раlй -ю *m.*: ***For heaven's sake*** or ***Good heavens!*** На ла́ску бо́жую! На мі́ласьць Бо́га! ***Good heavens!*** Бо́жа! Бо́жухна мой!

**heavenly** [ˈhevənli] adj. 1. нябёсны, нябе́сны: ***heavenly bodies*** нябе́сныя це́лы. 2. цудо́ўны, ве́льмі шчасьлі́вы *або́* прыго́жы

**heaves** [hi:vz] n. ды́хавіца *f.* (*у ко́ней*)

**heaviness** [ˈhevinəs] n. цяжа́р -у *m.* (*но́шы, ка́ры*)

**heavy I** [ˈhevi] adj. 1. цяжкі́, ва́жкі: ***Iron is heavy*** Жале́за цяжко́е. 2. цяжкі́, таўсты́ (*свэ́тар, паліто́*). 3. вялі́кі, мо́цны (*дождж*); бага́ты, до́бры (*ураджа́й*); мо́цны (*пасі́лак, бу́ра, сон*)

• ***a heavy countenance*** хму́ры, паму́ры вы́гляд

• ***a heavy fog*** густа́я імгла́

• ***a heavy sea*** бурлі́вае мо́ра

• ***a heavy smoker*** зацця́ты курэ́ц

• ***a heavy vote*** вялі́кая акты́ўнасьць пры галасава́ньні

• ***eyes heavy with sleep*** заспа́ныя во́чы

• ***heavy infantry*** Milit. ця́жка ўзбро́еная пяхо́та; ***heavy artillery*** цяжка́я артыле́рыя

• ***heavy news*** сýмная вéстка
• ***heavy sky*** хмáрнае, пахмýрнае нéба
• ***heavy taxes*** высóкія падáткі
• ***heavy with child*** цяжáрная

**heavy II** [ˈhevi] adj. ды́хавічны

**heavy-duty** [ˌheviˈdu:ti] adj. звышмóцны; трывáлы: ***heavy-duty tires*** дóўгатрывáлыя шы́ны. 2. абклáдзены вялікім мы́там

**heavy-handed** [ˌheviˈhændɪd] adj. 1. няспрáўны, нехлямя́жы. 2. суpóвы, дэспаты́чны. 3. з занятымі рукáмі

**heavy-hearted** [ˌheviˈhɑ:rtəd] adj. прыгнéчаны; маркóтны, сýмны, у змрóчным цяжкíм настрóі

**heavyweight** [ˈhevɪweɪt] n. 1. важкí, цяжкí. 2. Sport цяжкавагавíк -á *m.*

**Hebrew** [ˈhi:bru:] – n. 1. габрэ́ій -я *m.*, габрэ́йка *f.* 2. старагабрэ́йская мóва. 3. іўры́т -у *m.*
– adj. габрэ́йскі

**heckle** [ˈhekəl] – v.t. 1. даймáць прамóўцу éдкімі заўвáгамі, вы́крыкамі 2. часáць лён, канóплі шчóткай
– n. шчóтка для часáньня ільнý

**hectare** [ˈhekter] n. гэктáр -а *m.*

**hectic** [ˈhektɪk] – adj. 1. ліхамáнкавы, вéльмі хвалю́ючы, неспакóйны, гарáчы; бýрны: ***a man with a hectic past*** чалавéк з бýрным мінýлым. 3. сухóтны, з сухóтнай гарáчкай
– n. 1. сухóтны румя́н|ец -цу *m.*, ліхамáнка, гарáчка *f.* 2. сухóтнік -а *m.*, сухóтніца *f.*

**hectic fever** сухóтная гарáчка

**hectic flush** сухóтны румя́нец

**heddle** [ˈhedəl] n. ніт -á *m.* (*у крóснах*)

**hedge** [hedʒ] – n. 1. жываплóт -у *m.* 2. бар’éр, застáва *абó* мяжá. 3. срóдак ахóвы *абó* абарóны (*ад чагó-н.*), забясьпéчаньне *n.*
– v.t. 1. абсáджваць жываплóтам. 2. абвóдзіць *абó* адмяжóўваць *што* жываплóтам. 3. ухіля́цца ад прóстага адкáзу. 4. хавáцца, ухіля́цца ад прáцы ці адкáзнасьці

**hedgehog** [ˈhedʒhɔ:g] – n. вóжык -а *m.*
– adj. мóцна ахóўваны, які́ ця́жка зламáць (*напр. супраці́ў*)

**heed** [hi:d] – v.t. 1. увáжна слýхаць; зварачáць увáгу: ***Now heed what I say*** Слýхай, што я кажý. 2. заўважáць
– n. дбáласьць, рýплівасьць *f.*; увáга *f.*

**heedful** [ˈhi:dfəl] adj. 1. пíльны, асьцярóжны. 2. увáжны, увáжлівы; чýлы: ***heedful of advice*** увáжны да парáды

**heedless** [ˈhi:dləs] adj. 1. няўвáжны, няўвáжлівы, бяздýмны; нядбáйны. 2. неасьцярóжны. легкадýмны

**heedlessness** [ˈhi:dləsnəs] n. 1. няўвáжнасьць, няўвáжлівасьць *f.* 2. бяздýмнасьць, неасьцярóжнасьць *f.*

**heel** [hi:l] n. 1. пятá, пя́тка *f.* (*панчóхі*). 2. абцáс -а *m.* 3. акрáлец -йца *m.* (*хлéба, сы́ра*). 4. шпóра *f.* (*пéўня*). 5. падлю́га *m.&f.*, нягóднік -а *m.*, нягóдніца *f.*
• ***at heel*** па пя́тах, неадстýпна, усьлéд (*хадзíць*)
• ***down at the heel(s)*** а) са зьбíтымі абцáсамі. б) бéдна апрáнуты. в) неахáйны
• ***kick one’s heels*** дóўга, нецярплíва чакáць
• ***take to one’s heels*** уцячы́

**heelpiece** [ˈhi:lpi:s] n. набóйка *f.* (*на абцáсе*)

**heelplate** [ˈhi:lpleɪt] n. мэталёвая набóйка на абцáсе

**hefty** [ˈhefti] – adj., Informal 1. цяжкí. 2. вялíкі й мóцны; вéльмі дýжы, здаравéнны. 3. знáчны, вялíкі: ***a hefty bill (profit)*** вялíкі рахýнак (прыбы́ткі)
– adv. мóцна

**hegemony** [həˈdʒeməni] n. гэгемóнія *f.*, пяршы́нства *n.*, перавáга ў сíле ўплы́ву

**heifer** [ˈhefər] n. цялýшка *f.*

**height** [haɪt] n. 1. рост -у *m.* (*чалавéка*), вышыня́ *f.* (*хáты, гары́*). 2. узвы́шша *n.* 3. верхавíна *f.* (*гары́*), верх -у *m.* 4. найвышэ́йшая ступéнь, крáйнасьць *f.*: ***the height of fashion*** апóшні крык мóды. 5. высóкі ранг, высóкая ступéнь

**heighten** [ˈhaɪtən] – v.t. павышáць; падымáць

– v.i. павышáцца, узрастáць

**heinous** [ˈheɪnəs] adj. агíдны, жахлíвы

**heir** [er] – n. 1. спадкаéм|ец -ца *m.*, спáдчыньнік -а *m.* 2. Obsol. нашчáдак -ка *m.*: ***heir at law*** спáдчыньнік пакóдле закóну

– v.t. атрымáваць у спáдчыну, успадкóўваць

**heirdom** [ˈerdəm] n. стан *абó* правы́ спадкаéмца; спáдчына *f.*, спáдчыннасьць *f.*, спадкаéмства *n.*

**heiress** [ˈerəs] n. спáдчыньніца, спадкаéмніца *f.*

**heirloom** [ˈerlu:m] n. сямéйная спáдчынная рэч

**held** [held] v., *p.t. and p.p. of* **hold**

**helicopter** [ˈheləkɑ:ptər] – n. верталёт -а *m.*, гэлікóптэр -а *m.*

– v.t. лётаць верталётам

**helium** [ˈhi:liəm] n. гэ́лі|й -ю *m.*

**hell** [hel] n. 1. пéкла *n.* 2. а) мéсца ўсякага зла, зьдзéку *абó* галóты. Informal: ***Go to hell!*** Ідзі да д'я́бла!; ***a hell of a noise*** пякéльны гóман; ***to give someone hell*** вы́лаяць *кагó*, насварыцца

**he'll** [hi:, *unstressed* hil] 1. ***he will be*** ён бýдзе. 2. ***he shall be*** ён павíнен

**Hellenic** [heˈlenɪk] adj. гэліністы́чны, старагрэ́цкі (*гістóрыя, мóва, культýра*)

**Hellenism** [ˈhelɪnˌɪzəm] n. гэлінíзм -у *m.*

**Hellenist** [ˈhelɪnɪst] n. гэлінíст -а *m.*, гэлінíстка *f.* (*знавéц гэлінíстыкі*)

**hello** [həˈloʊ] interj., n., pl. **-los**, *гл.* **hallo**

**helm I** [helm] – n. 1. стырнó *n.*, рул|ь -я́ *m.*, стырнавóе кóла. 2. улáда *f.*, кіравáньне *n.*, Fig. дзяржáўнае стырнó

– v.t. 1. кіравáць, накірóўваць стырнóм (*параплáў*), стырнавáць. 2. кіравáць дзяржáвай, прадпрыéмствам

**helm II** [helm] n. *гл.* **helmet**

**helmet** [ˈhelmət] n. шлем -а ***m.***

**helmsman** [ˈhelmzmən] n., pl. **-men** стырнав|ы́ -óга *m.* (*параплáва*), сты́рнік -а *m.*

**help** [help] – v. 1. дапамагáць. 2. вылéчваць: ***The doctor helped my sore eye*** Лéкар вы́лечыў маё хвóрае вóка. 3. стры́мваць, прадухіля́ць: ***It can't be helped*** На гэ́та рáды нямá; нічóга ня зрóбіш; ***Can't help it*** Нічóга не магý зрабíць. 4. стры́мвацца: ***He can't help yawning*** Ён ня мóжа паўстрымáцца ад пазяхáньня; ***She can't help thinking of it*** Янá ня мóжа ня дýмаць пра гэ́та. 5. падавáць, частавáць (*за сталóм*): ***Help yourself*** Бярэ́це, калí лáска сáмі ***May I help you to some meat?*** Ці магý падáць вам мя́са?

– n. 1. дапамóга *f.* 2. памагáт|ы -ага *m.*, памагáтая *f.* 3. наня́ты рабóтнік *ці* рабóтніца; служáнка, нáймічка *f.*, нáйміт -а *m.* 4. срóд|ак -ку *m.*; паратýн|ак -ку *m.*

• ***help down*** дапамагчы́ сыйсьцí (*дóлу*)

• ***help in*** or ***into*** а) дапамагчы́ ўвайсьцí. б) дапамагчы́ надзéць, падáць (*палітó*)

• ***help off*** дапамагчы́ зьняць *што*

• ***help oneself to*** а) узя́ць, што патрэ́бна *ці* што хóчаш. б) прысабéчыць, скрáсьці

• ***help out*** дапамагчы́ (*у патрэ́бе*), вы́ручыць

• ***So help me God*** Хай мне Бог дапамóжа!

**helper** [ˈhelpər] n. памагáт|ы -ага *m.*, памагáтая *f.*; падрýчн|ы -ага, памóчнік -а *m.*, памóчніца *f.*; асыстэ́нт -а *m.*

**helpful** [ˈhelpfəl] adj. 1. кары́сны. 2. паслýжлівы, дагóдлівы

**helping** [ˈhelpɪŋ] – n. пóрцыя éжы

– adj., Gram. ***helping verb*** дапамóжны дзеяслóў

**helpless** [ˈhelpləs] adj. 1. бязрáдны, беспарáдны; бездапамóжны; квóлы. 2. без дапамóгі *ці* ахóвы. 3. якí жывé ў нястáчы (*бéднасьці*)

**helplessly** [ˈhelpləsli] adv. бязрáдна; бездапамóжна

**helplessness** [ˈhelpləsnəs] n. бязрáднасьць, бездапамóжнасьць *f.*

**helve** [helv] – n., esp. Brit. тапары́шча *n.*, рýчка малаткá, дзяржáльна *n.*

– v.t. насáджваць (*сякéру на тапарышча*)

**hem** [hem] – n. 1. рублéц -цá *m.* 2. бéраг -у *m. dim.* беражóк -кá *m.*; край -ю *m.*, мяжá *f.*: ***On the very hem of the sea*** На сáмым крáі мóра

– v.t. 1. падрубáць (*сукéнку*), зарубáць (*хусьцíнку*)

• **hem in, around** or **about** а) абкружáць з усíх бакóў. б) не дазваляць выйсьці *абó* свабóдна рýхацца

**hemisection** [ˌhemɪˈsekʃən] n. адна́ зь дзьвюх рóўных чáстак, палóва *f.*

**hemisphere** [ˈhemɪsfɪr] n. паўкýля *f.*, паўшáр'е *n.*: ***Western, Eastern, Southern and Northen hemisphere*** Захóдняя, Усхóдняя, Паўдзённая і Паўнóчная паўкýля

**hemispherical** [ˌhemɪˈsferɪkəl] adj. паўсфэрычны, у фóрме паўкýлі

**hemlock** [ˈhemlɑ:k] n. 1. амéжнік -у *m.* (*атрýтная расьлíна*). 2. яд *абó* лек (*асабл. супакóйвальны*) з амéжніку

**hemoglobin** [ˈhi:məgloubən] n. гэмаглябíн -у *m.*

**hemophilia** [ˌhi:məˈfɪliə] n. гэмафíлія *f.*

**hemorrhage** [ˈhemərɪdʒ] n. кровазьліцьцё *n.* (*у мóзг*); крывацёк -у *m.*

**hemorrhoids** [ˈhemərɔɪdz] n., pl. гемарóй -ю *m.*

**hemp** [hemp] n. 1. канóплі *pl. only*. 2. валакнó з канапéль. 3. наркóтыкі (*рóбленыя з канóпляў*). 4. Informal вярóўка *f.*

**hemstitch** [ˈhemstɪtʃ] – n. мярэ́жка *f.*

– v.t. мярэ́жыць

**hen** [hen] n. 1. кýрыца *f.*, *dim.* кýрка, кýрачка *f.* 2. сáмка íншых птýшак ***pea-hen*** пáва *f.*

**hence** [hens] – adv. 1. тамý, дзеля тагó. 2. ад гэ́тага чáсу; праз, пасьля́: ***three years hence*** праз тры гады́. 3. адгэ́туль: ***Go hence, I pray thee*** Ідзí адгэ́туль, прашý цябé. 4. з гэ́тага сьвéту: ***to go hence*** памéрці

– interj. адыйдзíся, ідзí вон! прэч!

**henceforth** [ˌhensˈfɔ:rθ] adv. з гэ́тага чáсу, з гэ́тай пары́

**hencoop** [ˈhenku:p] n. кýрнік, курáтнік -а *m.*; клéтка для курэ́й

**hendecasyllabic** [ˌhendəkəsɪˈlæbɪk] adj. адзінáццацікладóвы

**hen-hearted** [ˈhenhɑ:rtəd] adj. баязьлíвы, маладýшны

**henpeck** [ˈhenpek] v.t., Informal трымáць (*мýжа*) пад абцáсам

**henpecked** [ˈhenpekt] adj., Informal якóга трымáюць пад абцáсам

**heptagon** [ˈheptəgɑ:n] n. сямікýтнік -а *m.*

**her** [hɜ:r] – pron., *acc. of* **she** яé

– adj. éйны, éйная, éйнаé; свой, свая́, сваё: ***Mother loves her children*** Мáці любíць сваíх дзяцéй

**herald** [ˈherəld] – n. вястýн вестунá *m.*, гэрóльд, апавяшчáльнік -а *m.*

– v.t. 1. паведамля́ць, абвяшчáць (*прыхóд, надыхóд*). 2. прадвяшчáць, служы́ць прыкмéтай

**heraldic** [heˈrældɪk] adj. гэральды́чны

**heraldry** [ˈherəldri] n., pl. **-ries** гэрáльдыка *f.*

**herb** [ɜ:rb] n. зёлка *f.*, лéкавыя зёлкі

**herbaceous** [hɜ:rˈbeɪʃəs] adj. зёлкавы

**herbage** [ˈɜ:rbɪdʒ] n. 1. зёлкі *coll.* 2. травá *f.* 3. зялёнае лíсьце і сьцёблы расьлíнаў

**herbal** [ˈɜ:rbəl] – adj. зёлавы, зёлкавы

– n. гэрбáрый -я *m.*

**herbarium** [hɜ:rˈberiəm] n., pl. **-iums, -ia** гэрбáрый -я *m.*, калéкцыя засýшаных расьлíнаў

**herbivorous** [hɜ:rˈbɪvərəs] adj. траваéдны (*пра жывёлу*)

**herculean** [ˌhɜ:rkjəˈli:ən] adj. 1. асíлкавы; вéльмі мóцны, адвáжны й вялíкі; магýтны. 2. які́ вымагáе вялíкае сíлы, адвáгі; вéльмі цяжкí (*прáца*)

**Herculean** adj. Гэркулéсаў, гэркулéсаўскі

**herd** [hɜ:rd] – n. 1. стáтак -ку *m.*, гурт - у *m.*; чарадá *f.* (*карóваў*), табýн -á *m.* (*кóней*). 2. гурт, натóўп -у *m.* (*людзéй*)

– v.i. трымáцца рáзам, вéсьці сябрóўства

– v.t. пáсьвіць (*карóваў, авéчак*)

**herd instinct** стáдны інстынкт, стáднае пачуцьцё

**herdsman** [ˈhɜːrdzmən] n., pl. **-men** пастýх -á *m.*

**here** [hɪr] adv. 1. тут: ***We will stop here*** Мы тут спы́німся. 2. сюды́: ***Come here*** Хадзі сюды́. 3. вось: ***Here they come!*** Вось і яны́ ідýць!

• ***here and there*** а) дзе-нідзé б) то тут, то там

• ***here below*** тут на зямлí; на гэ́тым сьвéце

• ***Here (we, you) are*** Informal Вось, калí лáска; Вось вам

• ***neither here nor there*** не на тэ́му; ні туды́ ні сюды́, ні там ні сям

**hereafter** [hɪrˈæftər] – adv. пасьля́ гэ́тага, пазьнéй, у бýдучыні

– n. 1. бýдучыня *f.* 2. пасьмярóтнае жыцьцё

**hereby** [ˌhɪrˈbaɪ] adv. 1. гэ́тым, гэ́так: ***You are hereby given the right ...*** Гэ́тым вам даéцца прáва... ; гэ́ткім спóсабам. 2. Obsol. недалёка; паблíзу, блíзка

**hereditary** [həˈredəteri] adj. спáдчынны (*гаспадáрка, хварóба*)

**heredity** [həˈredəti] n., pl. **-ties** спáдчыннасьць *f.*

**herefrom** [ˌhɪrˈfrɑːm] adv. 1. ад гэ́тага мéсца, адгэ́туль, адсю́ль. 2. з гэ́тага фáкту

**herein** [ˌhɪrˈɪn] adv. 1. тут; у гэ́тым мéсцы (*кнíгі і пад.*). 2. у гэ́тай спрáве; у гэ́ткі спóсаб

**hereof** [ˌhɪrˈʌv] adv. 1. з гэ́тага. 2. пра гэ́та, аб гэ́тым

**heresy** [ˈherəsi] n., pl. **-sies** éрась, гэрэ́зія *f.*

**heretic** [ˈherətɪk] n. ерэ́тык -а, гэрэ́тык -а *m.*, ерэ́тычка, гэрэты́чка *f.*

**heretical** [həˈretɪkəl] adj. ерэты́чны, гэрэты́чны

**herewith** [ˌhirˈwɪð] adv. гэ́тым: ***Herewith I inform you*** Гэ́тым я паведамля́ю

**heritage** [ˈherətɪdʒ] n. спáдчына *f.*

**hermaphrodite** [hərˈmæfrədaɪt] n. гэрмафрады́т -а *m.*

**hermetic** [hərˈmetɪk] adj. гэрмэты́чны

**hermit** [ˈhɜːrmɪt] n. пустэ́льнік -а *m.*, пустэ́льніца *f.*

**hermit thrush** дрозд драздá *m.*

**hernia** [ˈhɜːrniə] n., pl. **-nias, -niae** кілá, гры́жа *f.*

**hernial** [ˈhɜːrniəl] adj. гры́жавы

**hero** [ˈhiːroʊ] n., pl. **-roes** гэрóй -я *m.*

**heroic** [həˈroʊɪk] adj. гэрóйскі, гэраíчны

**heroin** [ˈheroʊən] n. гэраíн -у *m.*

**heroism** [ˈheroʊˌɪzəm] n. гэраíзм -у *m.*

**heroize** [ˈhɪroʊaɪz] v.t. гэраізавáць

**heron** [ˈherən] n. чáпля *f.*

**herpes** [ˈhɜːrpiːz] n. гэ́рпэс -у *m.*

**herring** [ˈherɪŋ] n., pl. **-rings** селядзéц -цá *m.*: ***red herring*** а) вэ́нджаны селядзéц. б) Informal адця́гвальны манэ́ўр; зьбíцьцё з трóпу, з панталы́ку

**herringbone** [ˈherɪŋboʊn] – n. 1. хрыбтóвая косьць селядцá. 2. узóр éлачкай

– v.t. шыць, вышывáць éлачкай

**hers** [hɜːrz] pron. éйны, яé: ***This book is hers*** Гэ́та éйная кнíга; ***of hers*** éйны: ***a friend of hers*** éйны ся́бра

**herself** [hɜːrˈself] pron. 1. (emph.) самá, аднá: ***She herself did it*** Янá самá гэ́та зрабíла; ***(all) by herself*** зусíм аднá. 2. (refl.) сябé: ***She washed herself*** Янá памы́лася; ***She knew herself well enough*** Янá дóбра сябé знáла. 3. ***She is not herself*** Янá самá не ў сабé; самá не свая́; ***She came to herself*** Янá апрытóмнела

**he's** [hiːz] 1. = **he is** ён ёсьць. 2. = **he has** ён мáе

**hesitancy** [ˈhezɪtənsi] n., pl. **-cies** 1. вагáньне, хістáньне *n.*; сумнéў -ву *m.* 2. нерашýчасьць, няўпэ́ненасьць *f.*

**hesitant** [ˈhezɪtənt] adj. хісткí, няўпэ́ўнены

**hesitate** [ˈhezɪteɪt] v.i. 1. вагáцца, хістáцца; сумнявáцца . 2. не рашáцца. 3. не хацéць: ***She hesitated to hurt the child's feelings*** Янá вагáлася, каб не абрáзіць пачýцьці дзіця́ці. 4. запінáцца (*у гýтарцы*)

**hesitating** [ˈhezɪteɪtɪŋ] adj. які́ вагáецца, нерашýчы

**hesitation** [ˌhezɪˈteɪʃən] n. 1. вага́ньне, хіста́ньне *n.*; сумнява́ньне *n.*; нерашу́часьць *f.* 2. неахво́та *f.* 3. запі́нка *f.*, затры́мка ў гаво́рцы

**heterogeneous** [ˌhetərouˈdʒi:niəs] adj. разнаро́дны, непадо́бны, ро́зны

**hew** [hju:] v.t. 1. сячы́ (*сяке́рай, мячо́м*); расьсяка́ць. 2. абчэ́сваць (*бервяно́*); высяка́ць (*з ка́меня, ма́рмуру*): ***to hew down*** сьсяка́ць (*дрэ́ва*); высяка́ць (*лес*)

• ***hew one's way*** расьцерабі́ць, пракла́сьці сабе́ даро́гу

• ***hew to*** мо́цна прытры́мвацца *чаго́*, кірава́цца *чым*

**hewer** [ˈhju:ər] n. дрывасе́к, каменячо́с -а *m.*

**hewn** [hju:n] = **hewed** сьсе́чаны; вы́сечаны; абчаса́ны (*бервяно́*)

**hexagon** [ˈheksəgɑ:n] n. шасьціку́тнік -а *m.*

**hexagonal** [hekˈsægənəl] adj. шасьціку́тны

**hibernate** [ˈhaɪbərneɪt] v.i. 1. спаць зімо́вай сьпя́чкай. 2. зімава́ць (*пра жывёлу*)

**hibernation** [ˌhaɪbərˈneɪʃən] n. зімо́ўка *f.*, зімо́вая сьпя́чка

**hiccough** [ˈhɪkʌp] or **hiccup** – n. і́каўка *f.*
– v.i. і́каць, і́кацца

**hickory** [ˈhɪkəri] n.,pl. **-ries** гі́кары (*род амэрыка́нскага ало́скага гарэ́ха*)

**hidden** [ˈhɪdən] adj. схава́ны; захава́ны; патае́мны, та́йны; таямні́чы, тае́мны, зага́дкавы; невядо́мы

**hide I** [haɪd] **hid, hidden,** v.t. 1. хава́ць. 2. закрыва́ць. 3. хава́ць, трыма́ць у таямні́цы

**hide II** [haɪd] – n. 1. зьвяры́ная ску́ра (*нявы́рабленая й вы́рабленая*). 2. Informal чалаве́чая ску́ра: ***to save one's hide*** ратава́ць со́бскую ску́ру; ***neither hide nor hair*** нічагу́сенькі
– v.t. 1. здыма́ць ску́ру. 2. Informal мо́цна біць, калаці́ць *каго́*, спуска́ць ску́ру, лупцава́ць

**hide-and-seek** [ˌhaɪdənˈsi:k] n. хо́ванкі *pl. only*

**hideous** [ˈhɪdiəs] adj. 1. ве́льмі брыдкі́; паску́дны; стра́шны, жахлі́вы. 2. страшэ́нны, агі́дны (*пра злачы́нства*)

**hideout** [ˈhaɪdaʊt] n. схо́вішча *n.*, прыту́лак -ку *m.*

**hiding** [ˈhaɪdɪŋ] n. 1. хава́ньне *n.* 2. схо́ванка, схо́вань *f.* (*ме́сца*): ***be in hiding*** хава́цца (*пра зьбе́глага*)

**hierarch** [ˈhaɪrɑ:rk] n. іерáрх -а *m.*

**hierarchy** [ˈhaɪrɑ:rki] n., pl. **-chies** гіера́рхія *f.*

**hieroglyph** [ˈhaɪrəglɪf] – n. гіеро́гліф -а *m.*
– v.t. піса́ць гіеро́гліфамі

**hieroglyphic** [ˌhaɪrəˈglɪfɪk] – n. гіеро́гліф -а *m.*
– adj. гіерагліфі́чны

**high** [haɪ] – adj. 1. высо́кі (*буды́нак, цана́, тэмпэрату́ра*). 2. вышэ́йшы, гало́ўны (*пра ранг*): ***a high official*** вышэ́йшая службо́вая асо́ба. 3. вялі́кі: ***a high wind*** мо́цны ве́цер. 4. Mus. ***a high note (voice)*** высо́кая но́та (*высо́кі го́лас*). 5. у са́мым разга́ры: ***high summer*** разга́р ле́та; ***at high noon*** у са́мы по́ўдзень. 6. дарагі́ (*цано́ю*): ***Strawberries are high in winter*** Суні́цы дарагі́я ўзі́мку. 7. вясёлы: ***high spirits*** вясёлы прыўзьня́ты настро́й
– adv. 1. высо́ка. 2. раско́шна, бага́та: ***to live high*** жыць бага́та, на шыро́кую нагу́; ***to fly high*** Fig. высо́ка лётаць, мець вялі́кія пля́ны, надзе́і, амбі́цыі; ***high and low*** усю́ды
– n. вышыня́ *f.*

• ***high and mighty*** ганары́сты, пыхлі́вы; напы́шлівы, нахáбны

**highball** [ˈhaɪbɔ:l] or **high ball** мешані́на сьпіртно́га напо́ю з газава́най вадо́й

**high bluffs** стро́місты бе́раг, абры́ў -ву *m.*

**High Court (of Justice)** Вярхо́ўны Суд

**high-fidelity** [ˌhaɪfɪˈdeləti] adj. з высо́кай дакла́днасьцю рэпраду́кцыі (*пра ра́дыё, кампа́кт-дыск*)

**highland** [ˈhaɪlənd] n. or **highlands** го́рны край, го́рная мясцо́васьць; узго́рак -ка *m.*

**Highlander** [ˈhaɪləndər] n. 1. шатляндзкі горац. 2. жаўнер шатляндзкага войска

**highlife** [ˈhaɪlaɪf] n. вышэйшыя сфэры грамадзтва; жыцьцё гэтага грамадзтва

**highlight** [ˈhaɪlaɪt] – v.t. 1. асьвятляць, кідаць яркае сьвятло на *што*. 2. падкрэсьліваць, высоўваць на першы плян, надаваць вялікае значаньне. 3. рабіць выдатным
– n. 1. сьветлавы эфэкт у жывапісе, фатаграфіі. 2. найбольш цікавая *ці* важная частка чаго-н., падзея, сцэна

**highly** [ˈhaɪli] adv. 1. вельмі, надзвычайна: ***highly amusing*** вельмі займальна. 2. у высокай ступені: ***highly artistic*** высокамастацка. 3. высока: ***highly paid*** высока аплочваны

**high-minded** [ˌhaɪˈmaɪndɪd] adj. 1. з узьнёслымі прынцыпамі й пачуцьцямі. 2. Archaic ганарысты, напышлівы

**highness** [ˈhaɪnəs] n. вышыня *f.*, высокая ступень; узвышанасьць (*ідэалаў*)

**Highness** [ˈhaɪnəs] n. высокасьць (*тытул*) *f.*: ***Your Highness*** Вашая Высокасьць; ***His Royal Highness*** Ягоная Каралеўская Высокасьць

**high-rise** [ˈhaɪraɪz] – adj. шматпавярховы
– n. шматпавярховы будынак

**high school** сярэдняя школа

**highway** [ˈhaɪweɪ] n. 1. шаша *f.*; аўтастрада *f.* 2. галоўны шлях *або* тракт, гасьцін|ец -ца *m.*
• ***the highway to promotion*** просты шлях да павышэньня (*па службе*)

**highwayman** [ˈhaɪweɪmən] n. рабаўнік -а *m.*, разбойнік -а *m.*

**hike** [haɪk] – v.i. 1. ісьці пехатой у падарожжа. 2. маршыраваць
– v.t. падцягваць (*шкарпэткі*). 2. павышаць, павялічваць (*плату, падаткі*)
– n. 1. даўгая прахода; паход, марш -у *m.* 2. Informal падвышка платы, падаткаў

**hilarious** [hɪˈleriəs] adj. 1. вельмі сьмешны. 2. шумны, вельмі вясёлы (*пра кампанію*)

**hilarity** [hɪˈlerəti] n. шумная весялосьць

**hill** [hɪl] – n. 1. горка *f.*, узгор|ак -ку *m.*; узвышша *n.* 2. капл|ец -ца *m.*, куча *f.* (*як мурашнік і пад.*).
– v.t. 1. насыпаць кучу, капец. 2. акучваць, абганяць; абсыпаць (*бульбу*), абкопваць (*дрэвы*): ***hilling plants*** акучваньне, абганяньне (*расьлінаў*)

**hilliness** [ˈhɪlinəs] n. узгорыстасьць, пагоркавасьць *f.*

**hillock** [ˈhɪlək] n. пагор|ак -ка, узгорач|ак -ка *m.*, горка *f.*

**hillside** [ˈhɪlsaɪd] n. схіл узгорку

**hilly** [ˈhɪli] adj. узгоркавы, узгорысты

**hilt** [hɪlt] n. ручка халоднай зброі *або* прылады, эфэс -а *m.*
• ***up to the hilt*** цалкам; дакладна

**him** [hɪm] pron. *ускосны склон ад* ***he***: яго; яму; ім: ***Take him home*** Завядзі яго дамоў; ***Give it to him*** Дай гэта яму; ***with him*** зь ім

**himself** [hɪmˈself] pron. 1. (emph.) сам: ***He himself did it*** Ён сам гэта зрабіў. 2. (refl.) сябе, -ся, сабе: ***He hurt himself*** Ён выцяўся

**hind I** [haɪnd] **hinder, hindmost** or **hindermost,** adj. задні: ***hind leg*** задняя нага

**hind II** [haɪnd] n., pl. **hinds** *or* (coll.) **hind** лань *f.*

**hinder I** [ˈhɪndər] v.t. 1. затрымваць: ***He was hindered by rain*** Яго затрымаў дождж. 2. замінаць, перашкаджаць, не дазваляць

**hinder II** [ˈhɪndər] adj. задні

**hindermost** [ˈhɪndərmoʊst] or **hindmost** [ˈhaɪndmoʊst] adj. самы задні; апошні

**Hindi** [ˈhɪndi] n. гінды (*мова*)

**Hindu** [ˈhɪndu:] n., pl. **-dus** індус -а *m.*, індуска *f., pl.* індусы а) пасьлядоўнік рэлігіі індуізму, б) індыйцы, жыхары Індыі

**hindrance** [ˈhɪndrəns] n. 1. перашкода, замінка *f.* 2. замінаньне, перашкаджаньне *n.*

**hinge** [hɪndʒ] – n. 1. завеса *f.*; крук -а *m.* 2. шпіл|ень -яня *m.*; вось, аснова *f.*; галоўны прынцып: ***off the hinges*** не ў

пара́дку, сапсу́ты. 3. Obsol. зямна́я вось
– v.t. 1. ві́се́ць, ру́хацца на заве́сах *ці* вако́л во́сі. 2. зале́жаць ад *чаго́*

**hint** [hɪnt] – n. намі́н|ак -ку, намёк -у *m.*, намі́нка *f.*
– v.t. рабі́ць намі́нак, закіда́ць

**hip I** [hɪp] n. 1. клуб, клуба; сьцягно́ *n.*, сьцягня́к -а́ *m.* 2. кумпя́к -а́ *m.* (*ча́стка ту́шы*)

**hip II** [hɪp] n. плод ру́жы *або́* шыпшы́ны

**hip III** [hɪp] interj. вы́крык прывіта́ньня: ***Hip, hip, hurrah!*** Ура! Ура!

**hip IV** [hɪp] adj. паінфармава́ны, абазна́ны, у ку́рсе спра́ваў

**hippodrome** [ˈhɪpədroʊm] n. 1. гіпадро́м -а *m.* (*для ко́ннаспарто́вых спабо́рніцтваў*). 2. арэ́на *або́* будьі́ніна для цы́рку, радэ́о

**hippopotamus** [ˌhɪpəˈpɑːtəməs] n., pl. **-muses, -mi** гіпапата́м -а *m.*

**hire** [haɪr] – v.t. згаджа́ць (*рабо́тніка*); найма́ць (*рабо́тніка, машы́ну, ко́ней*): ***to hire out*** найма́цца. 2. дава́ць у на́ймы
– n. 1. наёмная пла́та. 2. на́йм -у *m., pl.* на́ймы: ***to work for hire*** працава́ць па на́йму

**hired** [haɪrd] adj. наёмны; наня́ты; зго́джаны (*рабо́тнік*)

**hireling** [ˈhaɪrlɪŋ] – n. на́йміт -а *m.*, на́йміčка *f.*
– adj. наня́ты, зго́джаны

**hirer** [ˈhaɪrər] n. найма́льнік -а *m.*, найма́льніца *f.*

**hiring** [ˈhaɪrɪŋ] n. найм -у *m., pl.* на́ймы, найма́ньне *n.*: ***hiring of manpower*** найма́ньне людзко́е рабо́чае сі́лы

**his** [hɪz] – pron. ягоны, яго́: ***This hat is his*** Гэ́та яго́ны капялю́ш
– adj. яго́ны; свой, свая́, сваё: ***He took his hat*** Ён узя́ў свой капялю́ш

**hiss** [hɪs] – v.i. 1. шыпе́ць, сы́каць, сычэ́ць (*як гусь, вужа́ка*); сквірчэ́ць. 2. сы́каць, сычэ́ць (*са зло́сьці*). 3. асьві́стаць (*на сцэ́не*)
– n. 1. шыпе́ньне, сычэ́ньне *n.* (*гусе́й*); сквірчэ́ньне (*пры сма́жаньні*). 2. сьвіст -у *m.* (*незадавальне́ньня, асуджэ́ньня*)

**historian** [hɪˈstɔːriən] n. гісто́рык-а *m. & f.*

**historic** [hɪˈstɔːrɪk] adj. 1. сла́ўны *або́* ва́жны ў гісто́рыі. 2. гістары́чны: ***historic site*** гістары́чная мясьці́на

**historical** [hɪˈstɔːrɪkəl] adj. 1. гістары́чны (*го́рад, рама́н*). 2. ве́дамы ў гісто́рыі

**history** [ˈhɪstri] n., pl. **-ries** гісто́рыя *f.*

**hit** [hɪt] – v. 1. уда́рыць, вы́цяць, сту́кнуць. 2. трапля́ць; папада́цца. 3. напада́ць, натрапля́ць (*ра́птам знахо́дзіць*): ***We hit the right road*** мы натра́пілі на пра́вільную даро́гу. 4. напада́ць, мо́цна крытыкава́ць: ***to hit at*** крытыкава́ць, высьме́йваць
– n. 1. уда́р -у *m.*, вы́|цень -тня *m.* 2. папада́ньне *n.*; уда́лая спро́ба. 3. во́стры напа́д *або́* кры́тыка. 4. уда́ча *f.*, по́сьпех -у *m.*: ***the novel was a great hit*** рама́н меў вялі́кі по́сьпех. 5. гіт, гіта́ *m.*, цьві́к сэзо́ну (*пра папуля́рную кні́гу, пе́сьню*)
• ***hit it off*** Informal ла́дзіць, згаджа́цца з *кім*
• ***hit or miss*** наўздага́д, наўда́чу, вы́йдзе — ня вы́йдзе

**hitch** [hɪtʃ] – v.t. 1. прывя́зваць да *чаго́*. 2. запрага́ць (*каня́*). 3. падсо́ўваць (*крэ́сла*) штуршка́мі, падця́гваць
– v.i. 1. прычапля́цца да *чаго́*. 2. чыкільга́ць, чыкіля́ць, ісьці́ кульга́ючы, кульга́ць
– n. 1. Tech. зачэ́пка, пятля́ *f.*, ву́з|ел -ла́ *m.* 2. кульга́ньне *n.* 3. перашко́да, замі́нка, затры́мка *f.*: ***without a hitch*** гла́дка, пасьпяхо́ва, ні сучка́ ні задзі́рынкі

**hitchhike** or **hitch-hike** [ˈhɪtʃhaɪk] v.i., Informal падаро́жнічаць аўтаспы́нам, аўтасто́пам; галасава́ць

**hither** [ˈhɪðər] adv. сюды́
• ***hither and thither*** сюды́ й туды́

**hitherto** [ˌhɪðərˈtuː] adv. 1. да гэ́тага ча́су, да гэ́тае пары́. 2. Archaic дагэ́туль, да гэ́тага ме́сца

**hive** [haɪv] – n. 1. ву́ле|й -я *m.*, кало́да *f.* 2. ро|й -ю *m.* (*пчо́лаў*). 3. ме́сца по́ў-

нае ру́ху, дзе́йнасьці, мітусьні́. 4. людзкі́ мура́шнік.

– v.t. 1. саджа́ць пчол у ву́лей. 2. насі́ць мёд у ву́лей. 3. запа́сіць на бу́дучыню

– v.i. жыць зго́дна (*як пчо́лы*)

**hoar** [hɔ:r] – adj. 1. бе́лы, шэ́ра-бе́лы. 2. сівы́; стары́; да́ўні, старае́чны

– n. 1. сівізна́ *f.* 2. шэ́рань *f.*

**hoard** [hɔ:rd] – n. 1. запа́с -у *m.*, назапа́шанае *n.*, рэ́чы, захо́ўваныя ў скла́дзе

– v. назапа́шваць; зьбіра́ць (*гро́шы*)

**hoarding I** [ˈhɔ:rdɪŋ] n. 1. зьбіра́ньне, назапа́шваньне *n.* 2. запа́с -у *m.*, назапа́шанае *n.*

**hoarding II** [ˈhɔ:rdɪŋ] n., Brit. 1. часо́вы плот. 2. до́шка для абве́стак

**hoarfrost** [ˈhɔ:rfrɔ:st] n. шэ́рань *f.* (*на дрэ́вах*), шаꞁро́н -рану́ *m.*

**hoarse** [hɔ:rs] adj. хры́плы: ***hoarse voice*** хры́плы го́лас

**hoarsely** [ ˈhɔ:rsli] adv. хры́пла, гарта́нна

**hoarsen** [ˈhɔ:rsən] v. даво́дзіць да хрыпаты́; хры́пнуць

**hoarseness** [ˈhɔ:rsnəs] n. хрыпо́та *f.*

**hoary** [ˈhɔ:ri] adj. 1. сівы́ (*ад ве́ку, ад шэ́рані*). 2. стары́, да́ўні, старада́ўны: ***hoary rules*** стары́я пра́вілы

**hoax** [hoʊks] – n. 1. гарэ́зны жарт, вы́думка, містыфіка́цыя *f.*

– v.t. жартава́ць з *каго́*, наўмы́сна ўво́дзіць у зман, містыфікава́ць

**hobble** [ˈhɑ:bəl] – v.i. 1. чыкільга́ць, чыкіля́ць, кульга́ць. 2. ісьці́ хіста́ючыся

– v.t. пу́таць

– n. 1. чыкільга́ньне, кульга́ньне *n.* 2. пу́та *n.* (*для каня́*). 3. Informal цяжко́е стано́вішча, бяда́ *f.*

**hobby** [ˈhɑ:bi] n., pl. **-bies** 1. улюбёны заня́так, захапле́ньне *n.*, го́бі. 2. улюбёная тэ́ма для гу́таркі, канꞁёк -ька́ *m.*

**hobbyhorse** [ˈhɑ:bɪhɔ:rs] n. 1. дзіця́чы ко́нік-забаўка, кіёк з ко́нскай галаво́ю. 2. ко́нік-го́йдалка 3. ко́нік на карусэ́лі. 4. канꞁёк -ька́ *m.*, улюбёная тэ́ма гу́таркі

**hobgoblin** [ˈhɑ:bˌgɑ:blɪn] n. 1. Myth. дамаві́к -а́ *m.*, кару́зьлік -а *m.* 2. нячы́сьцік -а *m.* 3. стра́шны пры́від, здань *f.*; фанто́м -а *m.*

**hobnail** [ˈhɑ:bneɪl] n. шаве́цкі цьвік (*зь вялі́кай пле́шкай*)

**hobnob** [ˈhɑ:bnɑ:b] – v.i. **(-bb-)** 1. сардэ́чна сябрава́ць з *кім*; шчы́ра, адкры́та гу́тарыць. 2. выпіва́ць ра́зам

– n. 1. шчы́рае сябро́ўства *або́* гу́тарка. 2. супо́льная вы́піўка

**hobo** [ˈhoʊboʊ] – n., pl. **-bos** or **-boes** 1. бадзя́гꞁа -і, бомж бамжа́ *m. & f.* 2. вандро́ўны рабо́тнік

– v.i. 1. бадзя́цца. 2. перабіра́цца зь ме́сца на ме́сца ў по́шуках пра́цы

**hock I** [hɑ:k] n., Anat. путава́я ко́стка (*у каня́*)

**hock II** [hɑ:k] – v., Sl. заклада́ць, аддава́ць у закла́д

– n., Sl. закла́д -у *m.*; доўг, до́ўгу *m.*

**hockey** [ˈhɑ:ki] n., pl. **-eys** хаке́й -ю *m.*

**hockey stick** клю́шка *f.*

**hocus-pocus** [ˌhoʊkəsˈpoʊkəs] – n. 1. фо́кус-по́кус. 2. спра́ўнасьць рук, ма́гія *f.* 3. ашука́нства *n.*

– v.i. 1. займа́цца штука́рствам. 2. рабі́ць шту́чкі

**hoe** [hoʊ] – n. матыка *f.*

– v. маты́чыць

**hog** [hɔ:g] – n. 1. сьвіньня́ *f.*, парсю́к -а́ *m.*, кныр -а́ *m.* 2. сьвіньня́ *f.* (*пра бру́днага, прагаві́тага чалаве́ка або́ эгаі́ста*)

– v.t. выгіна́ць сьпі́ну

**hogback** [ˈhɔ:gbæk] n. стро́мкі хрыбе́т узго́рка

**hogwash** [ˈhɔ:gwɔ:ʃ] n. 1. по́йла *n.* 2. Sl. лухта́ *f.*, глу́пства *n.*

**hoist** [hɔɪst] – v.t. падыма́ць, уздыма́ць (*сьцяг, ве́трать, груз*)

– n. 1. падыма́ньне, падня́цьце *n.*, пад'ём -у *m.* 2. ліфт для падыма́ньня гру́зу, пад'ёмнік -а *m.*

**hold I** [hoʊld] **held, held** – v.t. 1. трыма́ць. 2. стры́мваць: ***to hold one's breath*** стаі́ць ды́ханьне. 3. затры́мваць. 4. право́дзіць, ла́дзіць: ***to hold***

***a meeting*** правóдзіць пасéджаньне. 5. мець, уладáць, валóдаць, быць улáсьнікам: ***to hold much property*** мець шмат улáснасьці, мець вялíкую маёмасьць. 6. займáць: ***to hold office*** займáць пасáду. 7. зьмяшчáць у сабé: ***This room holds a hundred persons*** Гэ́ты пакóй умяшчáе сто людзéй. 8. дýмаць, лічы́ць: ***I hold it good*** Я дýмаю, што гэ́та дóбра. 9. стры́мваць (*абяцáньне*). 10. быць дзéйным *або́* ў сíле (*пра прáвіла, закóн*): ***The weather held warm*** Надвóр'е трымáлася цёплае

– n. 1. трымáньне ў руцэ́: ***to release one's hold*** перастáць трымáць, вы́пусьціць з рук. 2. хвáтка *f.*, спóсаб, прыём, якíм хапáюць *або́* трымáюць. 3. пункт апóры. 4. уплы́ў -ву *m.*; улáда *f.* 5. астрóжная кáмэра. 6. затры́мка *f.*, адклáд -у *m.* 7. Mus. пáўза *f.* 8. жытлó *n.*; гняздó *n.*, нарá *f.*, лóгава *n.*

• ***hold back*** а) стры́мваць, утры́мваць. б) затóйваць прáўду

• ***hold down*** а) прытры́мваць, прыціскáць; трымáць у падпарáдкаваньні; уціскáць. б) утрымáцца (*на станóвішчы*), затрымáць (*прáцу*)

• ***hold out*** а) ахвярóўваць; вáбіць: ***to hold out hopes*** вáбіць надзéяй. б) вы́ставіць, вы́сунуць напéрад: ***Hold out your hand*** Вы́стаў рукý. в) праця́гваць: ***No strength to hold out flight*** Нямá сíлы працягваць палёт

• ***hold up*** а) падтры́мваць, падпірáць. б) трымáцца ў цанé, высóка цанíцца. в) пакáзваць; падня́ць угóру, каб паказ́аць. г) затрымáць сíлаю і абрабавáць. д) патрывáць, пратрымáцца нéйкі час (*напр. пра вéцер*)

• ***hold with*** а) стая́ць на *чы́м* бакý, падтры́мваць. б) пагаджáцца, згаджáцца. в) ухваля́ць

**hold II** [hoʊld] n. трум -а *m.* (*у вадапла́ве*)

**holder** [ˈhoʊldər] n. 1. улáсьнік -а *m.*; арандáтар -а *m.* 2. нóсьбіт -а *m.* 3. асáдка, рýчка *f.* (*для пісáньня*)

• ***a cigarette holder*** партсігáр -а *m.*

**holdup** [ˈhoʊldʌp] n., Informal 1. напáд з мэ́тай рабýнку. 2. затры́мка *f.*

**hole** [hoʊl] – n. 1. дзíрка, дзю́рка *f.* (*у вóпратцы і пад.*). 2. я́ма, нарá *f.*; палóнка *f.* (*у лёдзе*). 3. глухí закýтак 4. турэ́мная кáмэра. 5. хíба *f.*, недахóп -у *m.*

– v.t. 1. прадзірáўліваць, прадзірáць, прасьвідрóўваць, пракрýчваць дзíрку. 2. пракóпваць, прарывáць (*пра зьвярóў*). 3. Sport загнáць у я́мку (*гóльфавы мяч*)

• ***in the hole*** у даўгóх *ці* грашóвых ця́жкасьцях

• ***pick holes in*** крытыкавáць, знахóдзіць недахóпы

**holiday** [ˈhɑːlədeɪ] n. сьвя́та *n.*: ***holidays*** вакáцыі *pl. only*

**hollow** [ˈhɑːloʊ] – adj. 1. пусты́, парóжны, парóжні: ***hollow tree*** дуплíстае дрэ́ва. 2. глухí (*пра гóлас, стогн*). 3. няшчы́ры, хлусьлíвы (*абяцáньні*); пусты́, непавáжны. 4. упáлы (*пра шчóкі*), запáлы (*пра вóчы*). 5. галóдны; худы́

– n. 1. пустóе мéсца; запáдзіна, я́міна *f.*; выбóіна *f.* (*на дарóзе*); дуплó *n.* (*у дрэ́ве*) 2. лагчы́на *f.*, лог -у *m.*

– v.t. выдзёўбваць (*дзíрку*)

**hollow-eyed** [ˌhɑːloʊˈaɪd] adj. з запáлымі *або́* глыбóкімі вачы́ма

**holly** [ˈhɑːli] n., pl. **-lies** Bot. пáдуб -а *m.* і -у; вастралíст -а *m.*

**hollyhock** [ˈhɑːlihɑːk] n., Bot. мáльва *f.*

**holocaust** [ˈhoʊləkɔːst] n. 1. вóгненная ахвя́ра. 2. пóўнае зьнішчэ́ньне, вынішчэ́ньне. 3. галакóст -у *m.*

**holster** [ˈhoʊlstər] n. кабурá *f.*

**holy** [ˈhoʊli] adj. сьвят|ы́ -áя

• ***Holy Thursday*** Вялíкі Чацьвéр

• ***Holy Week*** Вялíкі Ты́дзень

• ***Holy Writ*** Сьвятóе Пісáньне, Бíблія *f.*

**homage** [ˈhɑːmɪdʒ] n. пашáна, павáга *f.*: ***to pay homage*** аддавáць пашáну

**home** [hoʊm] – n. 1. дом -у *m.* (*мéсца стáлага жы́харства*): ***at home*** дóма, удóма; у хáце. 2. радзíма *f.*, рóдн|ы

го́рад, ро́дная вёска; ба́цькаўшчына *f.*: ***to be far from home*** быць далёка ад до́му. 3. прыту́л|ак -ку *m.*, дом -у *m.*: ***a veterans' home*** дом вэтэра́наў; ***Make yourself at home*** Бу́дзь як до́ма; ***affairs at home and abroad*** нутраны́я спра́вы і заме́жныя
– adj. 1. ха́тні, ро́дны: ***a home town*** ро́дны го́рад. 2. нутраны́
– adv. 1. дамо́ў, дадо́му: ***I want to go home*** Я хачу́ ісьці́ дамо́ў. 2. дакла́дна ў цэль: ***The spear struck home*** Дзіда ўда́рыла про́ста ў цэль

**homecoming** [ˈhoʊmˌkʌmɪŋ] n. вярта́ньне дамо́ў; вярта́ньне на ба́цькаўшчыну

**homeland** [ˈhoʊmlænd] n. ро́дны край, Poetic ро́дная старо́нка, ро́дны кут

**homeless** [ˈhoʊmləs] adj. бяздо́мны, бесхаці́мны, беспрыту́льны

**homely** [ˈhoʊmli] adj. 1. про́сты, штодзённы, сьці́плы: ***homely food*** про́стая е́жа. 2. про́сты, сьці́плы, сво́йскі (*пра чалаве́ка*). 3. брыдкі, непрыго́жы, несамаві́ты

**homemade** or **home-made** [ˈhoʊmmeɪd] adj. ха́тняга вы́рабу, прыгатава́ны, зро́блены до́ма; ха́тні: ***home-made bread*** ха́тні хлеб

**homesick** [ˈhoʊmsɪk] adj. які́ ту́жыць па до́ме, па ба́цькаўшчыне

**homesickness** [ˈhoʊmsɪknəs] n. туга́ па до́ме, па ба́цькаўшчыне; настальгі́я *f.*

**homespun** [ˈhoʊmspʌn] – adj. 1. саматка́ны. 2. пашы́ты з саматка́нага матэрыя́лу. 3. про́сты, некульту́рны (*пра мане́ры*)
– n. саматка́нае палатно́ *ці* сукно́

**homestead** [ˈhoʊmsted] n. ху́тар -а *m.*, сядзі́ба *f.*

**hometown** [ˈhoʊmtaʊn] n. ро́днае ме́ста, ро́дны го́рад

**homework** [ˈhoʊmwɜːrk] n. ха́тняе зада́ньне

**homicidal** [ˌhɑːmɪˈsaɪdəl] adj. забо́йчы; зьвя́заны з забо́йствам

**homicide** [ˈhɑːmɪsaɪd] n. 1. забо́йства *n.* 2. забо́йц|а -ы *m.*

**homogeneous** [ˌhoʊməˈdʒiːniəs] adj. 1. аднаро́дны, гамаге́нны 2. аднаста́йны

**homogenize** [həˈmɑːdʒənaɪz] v.t. рабі́ць аднаро́дным

**homogenized milk** аднаро́днае, гамаге́ннае малако́

**homosexual** [ˌhoʊməˈsekʃuəl] – adj. гомасэксуа́льны
– n. гомасэксуалі́ст -а *m.*

**homosexuality** [ˌhoʊməˌsekʃuˈæləti] n. гомасэксуалі́зм -у *m.*

**honest** [ˈɑːnəst] adj. 1. сумле́нны, добрасумле́нны. 2. сумле́нна здабы́ты (*пра прыбы́так*). 3. шчы́ры, адкры́ты: ***an honest face*** шчы́ры твар. 4. чы́сты; до́бры, непадро́блены (*тава́р*). 5. Archaic цно́тны, цнатлі́вы; нязві́нны, мара́льна чы́сты

**honesty** [ˈɑːnəsti] n. 1. сумле́ннасьць *f.* 2. шчы́расьць, адкры́тасьць *f.*

**honey** [ˈhʌni] – n., pl. **-eys** 1. мёд -у *m.* 2. нэкта́р з кве́так, кве́ткавы сок. 3. лю́бі|ы, каха́н|ы -ага *m.*, лю́бая, каха́ная *f.*
– adj. мядо́вы; сало́дкі

**honeybee** [ˈhʌnibiː] n. медано́сная пчала́

**honeycomb** [ˈhʌnikoʊm] n. со́ты *pl. only*, вашчы́на *f.*

**honeyed** [ˈhʌnɪd] adj. 1. засало́джаны мёдам. 2. сало́дкі, як мёд (*і пра сло́вы*), прые́мны

**honeymoon** [ˈhʌnimuːn] n. 1. мядо́вы ме́сяц. 2. Fig. пэры́яд прые́мных дачыне́ньняў або́ пачу́цьцяў

**honk** [hɑːŋk] – n. 1. кра́каньне, го́ргат; крык дзі́кае гу́сі. 2. трубо́к аўтамабі́ля
– v.i. 1. кра́каць, гаргата́ць. 2. трубі́ць

**honor**, Brit. **honour** [ˈɑːnər] – n. 1. сла́ва, чэсьць *f.* 2. го́нар -у *m.*: ***to be an honor to one's family*** быць го́нарам сям'і́. 3. пава́га, паша́на *f.*: ***The wealth he held in great honor*** Бага́цьце ў яго́ было́ ў вялі́кай паша́не. 4. ушанава́ньне: ***military honors*** вайско́выя ўшанава́ньні. 5. высо́кае стано́вішча; паса́да *f.*; до́брае імя́, рэпута́цыя *f.*
– v.t. 1. шанава́ць, паважа́ць. 2. аддава́ць паша́ну 3. ста́віцца з паша́най. 4. удасто́іць: ***to be honored by a royal***

***visit*** быць удастóеным каралéўскага візы́ту. 5. плаціць у час рахýнкі

• ***do honor*** стáвіцца зь вялíкай пашá-най

• ***do the honors*** выкóнваць абавя́зкі гаспады́ні ці гаспадарá, прымáць га-сьцéй

• ***upon my honor!*** слóва гóнару!

**honorable** [ˈɑ:nərəbəl] adj. 1. сумлéнны, высакарóдны. 2. пачэ́сны, ганарóвы: ***honorable duty*** пачэ́сны абавя́зак; ***Honorable*** шанóўны, паважáны, да-стóйны; высокашанóўны, высокада-стóйны; ***honorable mention*** ганарó-вая ўзнагарóда *абó* адзнáка

**honorably** [ˈɑ:nərəbli] adv. 1. сумлéнна, высакарóдна, з гóнарам. 2. пачэ́сна

**honorary** [ˈɑ:nəreri] adj. 1. ганарóвы: ***honorary degree*** ганарóвая ступéнь. 2. ганарóвы, які працýе бясплáтна

**hood** [hʊd] – n. 1. капюшóн -а, каптýр -á *m.* 2. заслóна *f.*, навéс -у *m.* 3. ка-пóт -а *m.*: ***hood of the automobile*** ка-пóт аўтамабíля

– v.t. пакры́ць каптурóм, навéсам

**hoodwink** [ˈhʊdwɪŋk] v.t. 1. ашýквáць, падмáнваць, абдýрваць. 2. закры-вáць, хавáць. 3. завя́зваць вóчы *ка-мý чым*

**hoof** [hu:f] n, pl. **hoofs** or **hooves** 1. ка-пы́т -á *m.* 2. капы́тная жывёліна. 3. чалавéчая ступня́ (*жартаўлíва*). 4. Geom. кóнус -а *m.*

**hoofed** [hu:ft] adj. капы́тны

**hook** [hʊk] – n. 1. крук -á *m.*, кручóк -кá *m.* (*рыбалóўны абó вязáльны*). 2. бусáк -á *m.* (*ужывáны пажáрнікамі*). 3. гáплік -а, гаплю́к -á *m.* 4. круты́ вы́гін ракí

– v.t. 1. зачапля́ць, трымáць (*кру-кóм, бусакóм*). 2. зашпіля́ць на гáп-лікі. 3. а) лавíць ры́бу на кручóк. б) падчапля́ць, лавíць на вýдачку *кагó* (*напр. мýжа*). 4. Sl. крáсьці

– v.i. 1. зашчапля́цца на кручóк (*вéсь-ніцы і пад.*). 2. выгінáцца (*пра ракý*)

• ***by hook or by crook*** так ці інáкш, за ўся́кую цанý; прáўдай і няпрáўдай

• ***Hook it!*** Sl. Змывáйся!

• ***hook up*** зашпілíць на гáплікі

• ***off the hook*** вóльны ад адкáзнасьці; вы́круціўшыся зь бяды́

**hook and eye** гаплю́к і гáфтачка

**hooked** [hʊkt] adj. 1. крывы́, кручкавá-ты. 2. зьвя́заны кручкóм. 3. Informal: ***hooked (on)*** па-нявóльніцку залéж-ны, падчэ́плены

**hooligan** [ˈhu:lɪgən] – n. хулігáн -а *m.*, хулігáнка *f.*

– adj. хулігáнскі: ***hooligan perfor-mances*** хулігáнскія вы́брыкі

**hoop** [hu:p] – n. абрýч -á *m.* (*ад бóчкі*): ***to roll the hoops*** качáць абручы́ (*гульня́*)

– v.t. набівáць абручы́ (*на бóчку*)

**hooper** [ˈhu:pər] n. 1. бóндар -а *m.* 2. эўрапéйскі лéбедзь

**hooping cough** [ˈhu:pɪŋ] or **whooping cough** кóклюш -у *m.*

**hoot** [hu:t] – n. 1. крык савы́. 2. гóлас-ны крык. 3. дрóбязь *f.*

– v.i. 1. крычáць (*пра савý*). 2. гусьці́, гудзéць (*пра гудóк, сырэ́ну*). 3. незда-вóлена крычáць, выкры́кваць. 4. тру-бíць, сыгнáліць кля́ксанам машы́ны

– v.t. высьвíстваць, зганя́ць кры́камі з трыбýны

• ***I don't give a hoot*** Я і ня дбáю

**hooting** [ˈhu:tɪŋ] n. гуд, гул, гóман -у *m.;* трубéньне *n.* (*кля́ксанаў*)

**hooves** [hu:vz] n. *гл.* **hoof**

**hop I** [hɑ:p] – v.i. (**-pp-**) 1. скакáць на ад-нóй назé, падскóкваць. 2. скакáць (*як кенгурý абó птýшкі*)

– v.t. 1. пераскóкваць. 2. Informal пе-ралятáць самалётам (*з вóстрава на вóстраў*)

– n. 1. скачóк -кá *m.*, падскóк -у *m.* 2. Informal палёт самалётам. 3. скó-кі, вечары́нка і тáнцы

**hop II** [hɑ:p] – n. хмель -ю *m.*

– v.i., v.t зьбірáць, зрывáць хмель; клáсьці хмель у пíва

**hope** [hoʊp] – n. надзéя *f.*

– v.t. 1. спадзявáцца. 2. мóцна хацéць, жадáць: ***to hope against hope*** спа-дзявáцца на цуд

**hopeful** [ˈhoʊpfəl] adj. 1. поўны надзеі; які спадзяецца. 2. які падае надзеі, шматабяцальны: ***a young hopeful*** шматабяцальная моладзь; хлапец (дзяўчына), які (якая) падае вялікія надзеі

**hopeless** [ˈhoʊpləs] adj. безнадзейны

**hopelessly** [ˈhoʊpləsli] adv. безнадзейна

**hopelessness** [ˈhoʊpləsnəs] n. безнадзейнасьць *f.*

**hopper I** [ˈhɑ:pər] n. 1. скакун -а *m.* (*пра чалавека і пра каня*), скакуха *f.* 2. скакунец -ца *m.*, палявы конік. 3. лейка *f.* 4. самазвал -а *m.*, грузавік-самазвал; вагон-самазвал

**hopper II** [ˈhɑ:pər] n. зьбіральнік хмелю

**hopscotch** [ˈhɑ:pskɑ:tʃ] – n. клясы *pl. only* (*дзіцячая гульня*)

– v.i. аб'яжджаць, абыходзіць, наведваць розныя месцы

**horary** [ˈhɔ:rəri] adj. 1. гадзінны (*які паказвае гадзіны*). 2. штогадзінны

**horde** [hɔ:rd] – n. 1. натоўп -у *m.*; зграя *f.*, рой -ю *m.* 2. арда *f.* (*вандроўнае войска або племя*)

– v.i. зьбірацца ў кучы, у зграі; жыць гуртам, зграяй

**horizon** [həˈraɪzən] n. 1. гарызонт -а *m.*, далягляд -у *m.* 2. кругагляд -у *m.*, кола ведаў, ідэяў, зацікаўленьняў

**horizontal** [ˌhɔ:rəˈzɑ:ntəl] – adj. гарызантальны, паземны

– n. гарызанталь *f.*

**hormonal** [hɔ:rˈmoʊnəl] adj. гарманальны

**hormone** [ˈhɔ:rmoʊn] n. гармон -у *n.*

**horn** [hɔ:rn] – n. 1. рог -а *m.* (*каровы*). 2. рожкі *pl.* (*у сьлімака*), вусікі *pl.* (*у насякомых*). 3. рагавое рэчыва. 4. рог, пасудзіна для піцьця: ***the horn of plenty*** рог дастатку. 5. рог (*музычны або сыгнальны інструмэнт*): ***a hunting horn*** паляўнічы рог; ***an auto horn*** кляксан аўтамабіля

– adj. рагавы, з рогу

– v. бадацца, бароцца; баднуць (*пра карову*)

• ***horn in***, Sl. умешвацца; мяшацца, лезьці не ў сваё

**hornbeam** [ˈhɔ:rnbi:m] n. граб -а *m* (*дрэва*), граб -у *m.* (*матэрыял*)

**horned** [hɔ:rnd] adj. з рагамі, рагаты: ***horned cattle*** рагатая жывёла

**hornet** [ˈhɔ:rnɪt] n. шэршань -ня *m.*

• ***stir up a hornet's nest*** выклікаць бяду на сваю галаву, лезьці ў бяду

**hornless** [ˈhɔ:rnləs] adj. бязрогі

**horny** [ˈhɔ:rni] adj. 1. рагавы. 2. мазолісты, мазольны, з мазалямі (*рукі*) 3. рагаты, з рагамі

**horoscope** [ˈhɔ:rəskoʊp] n. гараскоп -а *m.*

**horrible** [ˈhɔ:rəbəl] adj. 1. страшэнны, жахлівы, жудасны. 2. Informal вельмі непрыемны, агідны

**horrid** [ˈhɔ:rəd] adj. 1. страшны, жахлівы. 2. паскудны, вельмі непрыемны; неласкавы, нямілы

**horrify** [ˈhɔ:rɪfaɪ] v.t. 1. жахаць, выклікаць жах. 2. Informal моцна палохаць

**horror** [ˈhɔ:rər] n. 1. вялікі страх, жах -у *m.* 2. агіда

**horse** [hɔ:rs] – n. 1. конь каня *m.* 2. Milit. коньнік, кавалерыст -а *m.* 3. конь каня *m.* (*і ў шахматах*). 4. конь каня *m.* (*у гімнастыцы*). 5.Sl. гэраін, марфін. 6. Sl. шпаргалка *f.*

– v.t. 1. дастаўляць коней. 2. садзіць на каня. 3. несьці на плячах

– v.i. садзіцца на каня, ехаць конна

– adj. 1. конскі (*хамут, хвост*). 2. конны: ***horse artillery*** конная артылерыя

• ***from the horse's mouth*** з надзейнай крыніцы (*пра вестку*)

• ***To horse!*** На каня! (*каманда*)

**horseback** [ˈhɔ:rsbæk] – n. 1. сьпіна, верх каня. 2. стромкі хрыбет узгорка

– adv. конна, верхам: ***to ride horseback*** ехаць конна

**horse breeding** конегадоўля *f.*

**horsecar** [ˈhɔ:rskɑ:r] n. 1. конка *f.* 2. вагон для перавозкі коней

**horsecloth** [ˈhɔ:rsklɔ:θ] n. гунька *f.*

**horsefly** [ˈhɔ:rsflaɪ] n., pl. **-flies** сьляпень -ня *m.*, сьляпіца *f.*

**horsehair** [ˈhɔ:rsher] – n. 1. конскі волас. 2. матэрыял з конскага воласу

– adj. з ко́нскага во́ласу, напха́ны ко́нскім во́ласам

**horsehide** [ˈhɔ:rshaɪd] n. ко́нская ску́ра (*вы́рабленая й нявы́рабленая*)

**horseless** [ˈhɔ:rsləs] adj. бяско́нны, без каня́ (*гаспада́рка*)

**horseman** [ˈhɔ:rsmən] n., pl. **-men** 1. ко́ньнік -а *m.*, ко́нн|ы -ага *m.* 2. яздо́к ездака́ *m.* 3. ко́нюх -а *m.* 4. Obsol. кавалеры́ст -а *m.*

**horsepower** [ˈhɔ:rsˌpaʊr] n. ко́нская сі́ла (*адзінка вымярэ́ньня магу́тнасьці*)

**horseradish** [ˈhɔ:rsˌrædɪʃ] n. хрэн -у *m.*

**horseshoe** [ˈhɔ:rsʃu:] n. падко́ва *f.*

**horsetail** [ˈhɔ:rsteɪl] n. 1. ко́нскі хвост. 2. Bot. хвошч хвашчу́ *m.*

**horsewhip** [ˈhɔ:rshwɪp] – n. пу́га *f.*, хлыст -а́ *m.*

– v.t. хваста́ць, сьцяба́ць пу́гай (*каня́*), бічава́ць, хваста́ць бізуно́м (*чалаве́ка*)

**horticulture** [ˈhɔ:rtəˌkʌltʃər] n. садо́ўніцтва, гаро́дніцтва *n.*

**horticulturist** [ˌhɔ:rtəˈkʌltʃərɪst] n. садо́ўнік -а *m.*, садо́ўніца *f.*; гаро́днік -а *m.*, гаро́дніца *f.*

**hose** [hoʊz] – n., pl. **hose** 1. панчо́хі, шкарпэ́ты. 2. трыката́жнае мужчы́нскае адзе́ньне, трыко́ (*гімнасты́чнае, спарты́ўнае*). 3. кі́шка *f.*, шлянг -а *m.*: ***a garden hose*** гаро́дны шлянг; ***a fire hose*** пажа́рная кі́шка, шлянг

– v.t. паліва́ць з шля́нга гаро́д; заліва́ць пажа́р

**hosier** [ˈhoʊʒər] n. трыката́жнік -а *m.*, трыката́жніца *f.*, працаўнік трыката́жнай прамысло́васьці або́ га́ндлю

**hosiery** [ˈhoʊʒəri] n. 1. трыката́ж -у *m.*, панчо́шныя вы́рабы. 2. трыката́жная прамысло́васьць

**hospitable** [ˈhɑ:spətəbəl] adj. гасьці́нны

**hospitably** [ˈhɑ:spətəbli] adv. гасьці́нна

**hospital** [ˈhɑ:spɪtəl] n. 1. бальні́ца *f.*, шпіта́л|ь -ю *m.* 2. прыту́лак для бе́дных, хво́рых, стары́х

**hospitality** [ˌhɑ:spəˈtæləti] n., pl. **-ties** 1. гасьці́на *f.* 2. гасьці́ннасьць *f.*

**host I** [hoʊst] n. 1. гаспада́р (*які́ прыма́е гасьце́й*). 2. гаспада́р гасьцёўні. 3. расьлі́на або́ жывёла, зь якое жы́віцца парazі́т

**host II** [hoʊst] n. 1. вялі́кі гурт, збо́рышча, мно́ства *n.* 2. а́рмія *f.*, во́йска *n.* 3. нябе́сныя це́лы (*со́нца, зо́ркі*). 4 нябе́сныя анёлы

**hostage** [ˈhɑ:stɪdʒ] n. 1. закла́днік -а *m.*; закла́дніца -*f.* 2. Fig. закла́д -у *m.*

**hostel** [ˈhɑ:stəl] n. 1. інтэрна́т -у *m.*; жытло́ з пако́ямі ў на́ймы. 2. туры́сцкая ба́за (*асабл. для мо́ладзі*)

**hostess** [ˈhoʊstɪs] n. 1. гаспады́ня (*яка́я прыма́е гасьце́й*). 2. гаспады́ня гатэ́лю. 3. бортправадні́ца на самалёце

**hostile** [ˈhɑ:stəl] – adj. 1. варо́жы, во́рагаў. 2. непрыя́зны (*по́зірк, го́лас*), супраці́ўны

– n. во́раг, супраці́ўнік -а *m.*

**hostility** [hɑ:ˈstɪləti] n., pl. **-ties** 1. варо́жасьць, непрыя́знасьць *f.* 2. апазы́цыя *f.*, супраці́|ў -ву *m.*

• ***hostilities*** вае́нныя дзе́яньні, вайна́ *f.*, змага́ньне *n.*

**hostler** [ˈɑ:slər] n. 1. ко́нюх у зае́зным двары́. 2. рабо́тнік дэпо́, які́ перагання́е паравo̒зы

**host of heaven** 1. со́нца, ме́сяц і зо́ркі; нябе́сныя це́лы. 2. нябе́сныя анёлы

**hot** [hɑ:t] – adj. (**-tt-**) 1. гара́чы (*вада́*), сьпяко́тны, заду́шлівы (*надво́р'е*). 2. во́стры, го́ркі, рэ́зкі (*смак*): ***Pepper and mustard are hot*** Пе́рац і гарчы́ца во́стрыя. 3. гара́чы, па́лкі: ***a hot argument*** гара́чая спрэ́чка. 4. гне́ўны, раззлава́ны, узлава́ны: ***hot words*** гне́ўныя сло́вы. 5. запа́льчывы, нястры́маны, гара́чы: ***hot temper*** запа́льчывы хара́ктар, палымя́ны тэмпэрамэ́нт. 6. ве́льмі мо́цны, напру́жаны, інтэнсі́ўны, гара́чы: ***a hot fight*** гара́чы бой. 7. сьве́жы, но́вы, гара́чы: ***on hot trail*** па гара́чых сьляда́х; ***news hot from the press*** апо́шнія ве́сткі. 8. Sl. до́бры, мо́дны: ***hottest automobiles*** найбо́льш хадавы́я аўтамабі́лі; ***As a writer he is not so***

***hot*** Як пісьме́ньнік ён не такі́ ўжо до́бры. 9. ***a hot telephone line*** гара́чая лінія (*заўсёды во́льная і гато́вая для ўжы́тку*). 10. Sl. кра́дзены: ***hot diamonds (moneys)*** кра́дзеныя дыямэ́нты (гро́шы)

– adv. го́рача, па́лка

• ***blow hot or cold*** хіста́цца, вага́цца, праяўля́ць нерашу́часьць, ста́ла мяня́ць по́гляд

• ***in hot water*** у кло́паце, у бядзе́

**hotbed** [ˈhɑ:tbed] n. 1. парні́к -а́ m. 2. расса́днік -а m. (*асяро́дак пашырэ́ньня не́йкага зла — хваро́бы, злачы́ннасьці, вайны́*)

**hotblooded** [ˌhɑ:tˈblʌdɪd] adj. 1. па́лкі, гара́чы. 2. неразва́жлівы, нястры́маны, нестрыма́ны

**hot-dog** [ˈhɑ:t dɔ:g] 1. сасі́ска f. 2. бу́лачка з гара́чай сасі́скай

**hotel** [ˌhoʊˈtel] n. гатэ́л|ь -ю m.

**hotheaded** [ˌhɑ:tˈhedɪd] adj. 1. запа́льчывы, ху́ткі на злосьць; «гара́чая галава́» (*пра чалаве́ка*). 2. неразва́жлівы, імпульсі́ўны; упа́рты

**hothouse** [ˈhɑ:thaʊs] – n. 1. цяплі́ца f., парні́к -а́ m. 2. Obsol. ла́зьня f.

– adj. цяплі́чны, парніко́вы: ***hothouse flowers*** парніко́выя кве́ткі

**hotly** [ˈhɑ:tli] adv. го́рача, па́лка; са зло́сьцю, узбу́джана

**hotness** [ˈhɑ:tnəs] n. гарачыня́, сьпяко́та f.

**hotpot** [ˈhɑ:t pɑ:t] ту́шаніна з мя́са й гаро́дніны; тушо́нка

**hot-tempered** [ˌhɑ:tˈtempərd] adj. запа́льчывы, ху́ткі на злосьць

**hot-water bottle** n. грэ́лка f.

**hough** [hɑ:k] n., v. *гл.* **hock I**

**hound** [haʊnd] – n. 1. го́нчы саба́ка (*для палява́ньня*), ганча́к -а́ m. 2. Informal саба́ка (*лю́бы*) . 3. саба́к|а -і m. (*пра чалаве́ка*), няго́днік -а m. 4. вялі́кі ахво́тнік да *чаго́*, ама́тар -а m.: ***a bridge hound*** ама́тар бры́джу

– v.t. 1. палява́ць на *каго́-што*; перасьле́даваць: ***The police hounded the thief until they caught him*** Палі́цыя перасьле́давала зло́дзея, паку́ль не злаві́ла яго́. 2. не дава́ць спако́ю, му́чыць

• ***follow the hounds*** or ***ride to hounds*** палява́ць ко́нна з саба́камі

**hour** [aʊr] n. 1. гадзі́на f.: ***Trains leave every hour on the hour*** Цягнікі́ адыхо́дзяць штогадзі́ны. 2. азна́чаны час дня: ***dinner hour*** абе́дная пара́; ***office hours*** гадзі́ны пра́цы (*у канцыля́рыі, устано́ве*); прыёмныя гадзі́ны. 3. каро́ткі, абмежава́ны час: ***hour of glory*** нядо́ўгая сла́ва; ***The village is only an hour away*** Да вёскі то́лькі гадзі́на хады́/язды́

• ***early hours*** ра́на

• ***late hours*** по́зна

**hour hand** гадзі́нная стрэ́лка

**hourly** [ˈaʊrli] – adj. 1. штогадзі́нны: ***hourly doses of medicine*** штогадзі́нныя до́зы ле́ку. 2. безупы́нны; ча́сты: ***hourly danger*** безупы́нная небясьпе́ка

– adv. 1. штогадзі́ны: ***Give two doses hourly*** Дава́йце дзьве до́зы штогадзі́ны. 2. ча́ста

**house** [haʊz] – n., pl. **houses** [ˈhaʊzɪz] 1. дом -у m., ха́та f.: ***to keep house*** ве́сьці ха́тнюю гаспада́рку. 2. пала́та f. 3. тэа́т|ар -ру m., пу́бліка f.; наве́дваньне n.: ***The house was jammed*** Тэа́тар быў набі́ты бітко́м; ***We had a good house*** Была́ до́брая наве́двальнасьць; ***to bring down the house,*** Informal вы́клікаць бу́ру во́плескаў

– v.t. 1. прыма́ць *або́* дава́ць дом для жыцьця́. 2. забясьпе́чваць жытло́м. 3. дава́ць прыту́лак

– v.i. жыць, займа́ць жыльлё

• ***house agent*** аге́нт для про́дажу ці здава́ньня ў на́ймы дамо́ў

**housebreaker** [ˈhaʊsˌbreɪkər] n. узло́мнік -а m.

**housebreaking** [ˈhaʊsˌbreɪkɪŋ] n. узло́м -у m. (*з мэ́тай абрабава́ньня*)

**household** [ˈhaʊshoʊld] – n. 1. сям'я́ і ўсе́ ха́тнія. 2. ха́тняя гаспада́рка

– adj. ха́тні, сяме́йны: ***household expenses*** ха́тнія выда́ткі ***household tool*** ха́тняя прыла́да

**housekeeper** [ˈhaʊsˌki:pər] n. аканóмка, ахмістры́ня f., хáтняя гаспады́ня

**housekeeping** [ˈhaʊsˌki:pɪŋ] n. вядзéньне хáтняе гаспадáркі

**housemaid** [ˈhaʊsmeɪd] n. хáтняя рабóтніца, служáнка f.

**housemaster** [ˈhaʊsˌmæstər] n. загáдчык інтэрнáту

**House of Commons** Палáта Абшчы́наў (*ніжэ́йшы вы́барны заканадáўчы óрган у Вялíкай Брытáніі, Канáдзе абó Паўнóчнай Ірля́ндыі*)

**House of Lords** Палáта Лóрдаў (*вышэ́йшы і невыбірáны заканадáўчы óрган у Вялікай Брытáніі і Паўнóчнай Ірля́ндыі*)

**House of Representatives, the** Палáта Прадстаўнікóў (*ніжэ́йшы вы́барны заканадáўчы óрган у Злу́чаных Штáтах Амэ́рыкі; ніжэ́йшы заканадáўчы óрган у Аўстрáліі, Нóвай Зэля́ндыі, Япóніі*)

**housewarming** [ˈhaʊsˌwɔ:rmɪŋ] n. увахóдзіны, улáзіны *pl. only*, сьвяткавáньне ўвахóдзінаў

**housewife** [ˈhaʊswaɪf] – n., pl. **-wives** 1. хáтняя гаспады́ня. 2. гаспады́ня f.
– v.i. умéла й ашчáдна гаспадáрыць
– v.t. вéсьці гаспадáрку ўмéла й ашчáдна

**housework** [ˈhaʊswɜ:rk] n. хáтнія рабóты

**house wrecker** рабóтнік, які́ знóсіць дамы́

**housing** [ˈhaʊzɪŋ] n. 1. забесьпячэ́ньне дамáмі, жытлóм. 2. прыту́л|ак -ку m., жытлó n. 3. *Coll.* дамы́, будынкі

**hovel** [ˈhʌvəl] n. 1. бу́дка f., бéдная хáта. 2. павéць, павéтка f. (*для жывёлы*)

**hover** [ˈhʌvər] v.i. 1. (over) лунáць, лётаць над адны́м мéсцам; вісéць, узвышáцца. 2. быць, знахóдзіцца паблíзу. 3. вагáцца, хістáцца: ***to hover between life and death*** вагáцца паміж жыцьцём і сьмéрцяй, быць блíзкім да сьмéрці

**how** [haʊ] – adv. 1. як: ***Tell him how to do it*** Скажы́ ямý, як гэ́та зрабíць; ***How did it happen?*** Як гэ́та стáлася? ***How are you?*** Як мáесься? Як здарóўе? ***How do you do?*** Як мáесься? (*прывітáньне*). 3. ***how many, how much?*** кóлькі? 4. ***how long?*** кóлькі чáсу? як дóўга? 5. чамý?: ***How is it you are late?*** Чамý ты спазьнíўся? ***How come?*** Чамý? Як гэ́та?
– n. ***the how*** спóсаб, у які́ спóсаб
• ***How so?*** Чамý гэ́та так?

**however** [haʊˈevər] – conj. тым ня менш, аднáк, ня глéдзячы на гэ́та
– adv. 1. як бы ні, як ні: ***However late it is*** як ні пóзна; ***I'll come, however busy I am*** Я прыйдý, як бы я ні быў заня́ты. 2. Informal як тóлькі: ***However did you get so dirty?*** Як тóлькі ты гэ́так замýрзаўся?

**howitzer** [ˈhaʊɪtsər] n. гáўбіца f. (*род гармáты*)

**howl** [haʊl] – v.i. 1. выць, завывáць (*пра сабáк, ваўкóў, вéцер*). 2. крычáць; раўсьці́ (*са злóсьці*): ***to howl down*** заглушы́ць (*кры́кам і г.д.*); ***We howled with laughter*** Мы рагатáлі
– n. 1. выцьцё, скавытáньне n. (*сабáкі, вéтру*). 2. крык -у m.: ***howl of laughter*** рóгат -у m.

**howler** [ˈhaʊlər] n. 1. крыкýн -á m., крыкýха f.; плáкс|а -ы m. & f., плаксýн -á m. 2. равýн -á m. (*мáлпа*). 3. Informal дурнáя памы́лка. 4. плáкальніца f.

**hub** [hʌb] 1. калóдка f. (*сярэ́дняя чáстка кóла*). 2. галóўны цэ́нтар, асярóл|дак -дку (*дзéйнасьці, жыцьця́, зацікаўлéньня*)

**hubbub** [ˈhʌbʌb] n. 1. шýмная гамóнка, мітусьня́, замяшáньне n. 2. гóман -у m., гул галасóў

**hubby** [ˈhʌbi] n., pl.**-bies** Informal муж -а, мужа|нёк -нькá m.

**huckleberry** [ˈhʌkəlˌberi] n., Bot. род чарнíцаў (*я́гады*)

**huckster** [ˈhʌkstər] – n. 1. вандрóўны гандля́р. 2. гандля́р дрóбязьзю. 3. кары́сьлівы, несумлéнны гандля́р
– v.i. займáцца дрóбным гáндлем; таргавáцца

**huddle** [ˈhʌdəl] – v.i. 1. ціскацца, ціснуцца, тóўпіцца, зьбівáцца ў кýчу. 2. Informal патаéмна вéсьці нарáды
– v.t. 1. скідáць абы-як, укладáць рáзам, уціскáць. 2. скрýчвацца ў клубóк (*як кот*); кýрчыцца. 3. насьпéх канчáць (*перамóвы*): ***to huddle on*** нацягнýць на сябé вóпратку абы-як, насьпéх
– n. 1. бязлáдная, хаатычная кýча; мáса *f.*, натóўп -у *m.* 2. вялíкі пасьпéх. 3. Informal патаéмная нарáда

**hue I** [hju:] n. кóлер -у *m.*, адцéньне *n.*; вóдсьвет -у *m.*; адлíлў -ву *m.* (*кóлеру*): ***with golden hue*** з залацістым адлíвам

**hue II** [hju:] n. крыкі: ***hue and cry*** крыкі пратэсту *ці* трывóгі; пагóня за злачынцам з крыкамі

**huff** [hʌf] – n. выбух злóсьці *абó* раздражнéньня
– v.t. 1. злавáць; зьневажáць, абражáць. 2. стáвіцца з фанабэрыяй абó пагáрдай. 3. (*у шáшках*) рабíць «фук»

**huffy** [ˈhʌfi] adj. 1. абрáжаны. 2. крыўдлíвы

**hug** [hʌg] – v.t. **(-gg-)** 1. тулíць, абдымáць. 2. мóцна сьціскáць. 3. мóцна трымáцца *чагó*
– n. 1. абдымкі *pl. only.* 2. сьціск -у *m.*, хвáтка *f.* (*у дýжаньні*)

**huge** [hju:dʒ] adj. велізáрны, вялíзны

**hull I** [hʌl] – n. 1. лускá *f.* (*цыбýлі*), лупíна, шалупíна *f.* (*бýльбы*); скýрка, лупíнка плóда, мякíна *f.* 2. усякае вóнкавае пóкрыва; канвэрт -а *m.*
– v.t. абдзірáць шалупíньне, лупíну, скýрку; абірáць з лупíны, лýшчыць, ачышчáць зéрне ад мякíны

**hull II** [hʌl] n. кóрпус караблá; каркáс, касьцяк дырыжáбля

**hulled** [hʌld] adj. ачышчаны, лýшчаны (*гарóх*): ***hulled grain*** зéрне ачышчанае ад мякíны

**hum** [hʌm] – v., **(-mm-)** 1. гудзéць; гусьці (*як пчóлы, машына*). 2. мыкаць, неразбóрліва *абó* з запíнкамі гаварыць. 3. напявáць (*бяз слóваў*). 4. Informal разьвівáць бурлíвую дзéйнасьць: ***He makes things hum*** У ягó прáца кіпíць
– n. 1. гудзéньне *n.* (*пчóлаў*), гул -у *m.*, гудзéньне самалёта. 2. гул -у *m.* (*гóраду*). 3. напявáньне
– interj. гм! (*выкáзвае недавéр, сумнéў, ірóнію*)

**human** [ˈhju:mən] – adj. 1. людзкí, чалавéчы: ***human race*** людзкí род; ***human being*** людзкáя істóта. 2. чалавéчы, уласьцíвы, характэрны для чалавéка: ***It's human to err*** чалавéку ўласьцíва памыляцца
– n. чалавéчая істóта; асóба *f.*, чалавéк -а *m.*

**humane** [hjuˈmeɪn] adj. людзкі, гумáнны

**humaneness** [hjuˈmeɪnnəs] n. чалавéчнасьць, людзкасьць; спагáдлівасьць, гумáннасьць *f.*

**humanism** [ˈhju:məˌnɪzəm] n. 1. гуманíзм -у *m.* 2. гуманітáрныя навýкі

**humanist** [ˈhju:mənɪst] n. 1. гуманíст -а *m.* 2. студэнт гуманітáрных навýкаў

**humanitarian** [hju:ˌmænɪˈteriən] adj. гуманітáрны, дабрачынны, філянтрапíчны

**humanity** [hju:ˈmænəti] n., pl. **-ties** 1. чалавéцтва *n.* 2. чалавéчнасьць *f.*, людзкáя натýра: ***Humanity is a mixture of good and bad qualities*** Людзкáя натýра — гэта мешанíна дóбрых і благíх якасьцяў. 3. гумáннасьць, людзкасьць, спагáдлівасьць *f.*
• ***the humanities*** а) лацíнская й грэцкая мóва й літаратýра. б) гуманітáрныя навýкі

**humble** [ˈhʌmbəl] – adj. 1. сьцíплы, прóсты, бéдны; нязнáтны (*пра род*): ***a humble request*** пакóрлівая прóсьба. 2. пакóрны, пакóрлівы
– v.t. 1. рабíць пакóрлівым, уціхамíрваць, утаймóўваць; прыніжáць. 2. паніжáць, прыніжáць (*станóвішчам, вáжнасьцю*)

**humblebee** [ˈhʌmbəlbi:] n. чмель чмяля *m.*

**humbug** [ˈhʌmbʌg] – n. 1. ашукáнства *n.*, лýхта *f.* 2. ашукáнец -ца *m.*, махляр

-á *m.*; самахвáл -а *m.*; пустамéл|я -і *m. & f.* 3. удавáньне *n.*, хвальбá *f.*
– v.t. ашýкваць, падмáнліва звóдзіць

**humdrum** [ˈhʌmdrʌm] – adj. 1. аднастáйны; нецікáвы, нýдны; манатóнны: ***a humdrum existence*** нýднае існавáньне
– n. аднастáйная рутына, манатóнія *f.* 2. нýдная гýтарка. 3. нецікáвы, нýдны чалавéк

**humeral** [ˈhju:mərəl] adj. плечавы́

**humerus** [ˈhju:mərəs] n., pl. **-eri** [-ərai] 1. плечавáя косьць. 2. плячó *n., pl.* плéчы

**humid** [ˈhju:mɪd] adj. вільгóтны, сыры́; вóгкі

**humidifier** [hjuˈmɪdɪfaiər] n. апарáт для падтры́мкі вóгкасьці; вільгóтнік -а *m.*

**humidity** [hjuˈmɪdəti] n. вільгóтнасьць, вíльгаць, сы́расьць *f.* (*глéбы*), вóгкасьць *f.* (*у павéтры*)

**humiliate** [hjuˈmɪlieɪt] v.t. прыніжáць; зьневажáць

**humiliating** [hjuˈmɪlieɪtɪŋ] adj. прыніжáльны, зьнявáжлівы, зьневажáльны

**humiliation** [hjuˌmɪliˈeɪʃən] n. 1. зьнявáга *f.*, прыніжэ́ньне *n.* 2. прыні́жанасьць *f.*

**humility** [hjuˈmɪləti] n., pl. **-ties** пакóра, пакóрнасьць, пакóрлівасьць, ціхмáнасьць *f.*

**humming** [ˈhʌmɪŋ] adj. 1. які́ бзы́кае, гудзé, які́ напявáе. 2. мóцны, энэргíчны. 3. мóцны, пéністы: ***humming beer*** мóцнае пéністае піва

**hummingbird** [ˈhʌmɪŋbɜ:rd] n. калíбры *m., indecl.*

**hummock** [ˈhʌmək] n. 1. малы́ узгóрачак, пагóрак -ка *m.* 2. ледзянáя глы́ба (*на пóлі*), тарóс -а *m.* 3. рóйсты *pl. only* (*зáрасьнік на балóце*); ***hummocks*** куп'ё *n.*

**humor**, Brit. **humour** [ˈhju:mər] – n. 1. гýмар -у *m.*; жартаўлíвасьць. сьмéшнасьць *f.*: ***I see no humor in your jokes*** Я ня бáчу нічóга сьмéшнага ў вáшых жáртах. 2. настрóй -ю *m.*; гумóр -у *m.*: ***in good (bad, ill) humor*** у дóбрым (благíм) настрóі; ***humors*** капры́сы *pl.*, дзівáцтвы, гумóры
– v.t. патурáць капры́зам, свавóльству *абó* дзівáцтвам; быць паблáжлівым, пéсьціць
• ***sense of humor*** пачуцьцё гýмару

**humorist** [ˈhju:mərɪst] n. гумары́ст -а *m.*, гумары́стка *f.*

**humorous** [ˈhju:mərəs] adj. гумарысты́чны, сьмéшны, камíчны

**hump** [hʌmp] – n. 1. горб гарбá *m., dim.*, гóрбік -а *m.* 2. пукáтасьць *f.*, пагóрачак, узгóрачак -ка *m.*, грудóк -кá *m.* 3. Sl. благí настрóй, дэпрэ́сія *f.*
– v.t. гóрбіць
– v.i. гóрбіцца

**humpback** [ˈhʌmpbæk] n. гарбýн -á *m.* (*і пра жывёліну*), *dim.* гарбунóк -кá *m.*; гарбáт|ы -ага *m.* (*пра чалавéка*), гарбáтая *f.*; гарбýха *f.*

**humpbacked** [ˈhʌmpbækt] adj. гарбáты

**humus** [ˈhju:məs] n. гýмус -у *m.*, перагнóй -ю *m.*

**Hun** [hʌn] n. Гун -а *m.*, Гýны *pl.*

**hunch** [hʌntʃ] – v. гóрбіць, гóрбіцца
– n. 1. горб гарбá *m.* 2. Informal прадчувáньне, здагáдка *f.*

**hunchback** [ˈhʌntʃbæk] n. гарбáт|ы -ага *m.*, гарбýн -á *m.*; гарбáтая, гарбýньня, гарбýха *f.*

**hundred** [ˈhʌndrəd] n., pl. **-dreds** *or (as after a numeral)* **-dred** 1. сто; сóтня *f.*: ***hundreds of people*** сóтні людзéй; ***two hundred and sixty-three*** дзьвéсьце шэ́сьцьдзесят тры. 2. акрýга (*чáстка грáфства*) у Англіі

**hundredfold** [ˈhʌndrədfould] – adj. сторазóвы
– adv. сто разóў

**hundredth** [ˈhʌndrədθ] – adj. сóтны, сóты
– n. сóтая чáстка

**hundredweight** [ˈhʌndrədweɪt] n., pl. **-weights** *or (after a numeral)* **-weight** 100 фýнтаў (*у ЗША*); 112 фýнтаў (*у Вялікай Брытáніі*)

**hung** [hʌŋ] v., *p.t. and p.p. of* **hang**

**Hungarian** [hʌŋˈgeriən] – adj. вугóрскі, мадзя́рскі, вэнгéрскі

– n. 1. вугóр|ац -ца *m.*, мадзя́р -а *m.*, вэнгéр|ац -ца *m.*; вугóрка, мадзя́рка, вэнгéрка *f.* 2. вугóрская мóва

**hunger** [ˈhʌŋgər] – n. 1. гóлад -у *m.* 2. прáга *f.*, мóцнае жадáньне: ***a hunger for kindness*** прáга лáскі
– v.i. а) галадáць, быць галóдным. 2. прáгнуць, жадáць
– v.t. марыць гóладам

**hungry** [ˈhʌŋgri] adj. 1. галóдны. 2. бéдны, мізэ́рны, скупы́. 3. прáгны: ***hungry for books*** прáгны да кніг. 4. неўраджáйны (*пра глéбу*)

**hunt** [hʌnt] – v.t. 1. палявáць (*на зьвярóў*); ганя́цца за *кім.* 2. а) аб'яжджáць (*лес*) у пóшуках зьверыны́. б) перашукáць усю́ды, ператрэ́сьці (*хáту*) шукáючы *чагó.* 3. перасьлéдаваць
– v.i. 1. займáцца палявáньнем. 2. даклáдна перашукáць: ***to hunt through drawers*** перашукáць у шуфля́дах
– n. 1. палявáньне *n.* 2. удзéльнікі палявáньня. 3. пóшукі *pl. only*

**hunter** [ˈhʌntər] n. 1. паляўнíчы 2. шукáльнік -а *m.* 3. паляўнíчы сабáка *ці* конь

**hunting** [ˈhʌntɪŋ] – n. палявáньне *n.*
– adj. паляўнíчы

**huntress** [ˈhʌntrəs] n. 1. паляўнíчая *f.* 2. паляўнíчая кабы́ла

**huntsman** [ˈhʌntsmən] n., pl. **-men** 1. паляўнíч|ы -ага *m.* 2. éгер -а *m.*

**hurdle** [ˈhɜ:rdəl] – n. 1. перанóсная зáгарадзь, бар'éр -а *m.* 2. перашкóда *f.*, ця́жкасьці *pl. only*
– v.t. 1. пераскóкваць праз бар'éр. 2. перамагáць (*ця́жкасьці*). 3. абгараджáць плóтам *абó* бар'éрам
– v.i. пераскóкваць
• ***hurdles*** бар'éрны бег

**hurl** [hɜ:rl] – v.t. 1. шпурля́ць; закідáць (*вýду*). 2. кідáць (*злóсныя слóвы, зáкіды*). 3. скідáць
– n. мóцны кід|óк -кá *m.*

**hurrah!** [həˈrɑ:] – interj. урá!
– v.i. крычáць «урá», вітáць
– v.t. вітáць, сустракáць *кагó* кры́камі «урá!»

**hurricane** [ˈhɜ:rəkeɪn] – n. ураган -у *m.*
– adj. ураганны (*агóнь*)

**hurried** [ˈhɜ:rɪd] adj. 1. пасьпéшлівы, пасьпéшны; хапатлíвы, шпáркі. 2. падганя́ны

**hurriedly** [ˈhɜ:rɪdli] adv. насьпéх, хапáючыся, шпáрка

**hurry** [ˈhɜ:ri] – v.t. 1. падганя́ць. 2. прысьпéшваць
– v.i. 1. хапáцца, сьпяшáцца. 2. імчáць, імчáцца: ***hurry up!*** хутчэ́й!
– n. 1. пасьпéх, сьпех -у *m.*: ***in a hurry*** насьпéх, хапáючыся, сьпéхам. 2. нецярпéньне *n.*: ***to be in a hurry*** сьпяшáцца. б) не цярпéцца: ***She was in a hurry to see her father*** Ёй не цярпéлася пабáчыць свайгó бáцьку

**hurt** [hɜ:rt] – v.i. 1. балéць: ***My finger hurts*** Мне балíць пáлец. 2. даймáць, кранáць за жывóе
– v.t. 1. рáніць (*нагý, рукý*); калéчыць; ударáць: ***to hurt oneself*** пакалéчыцца, удáрыцца, вы́цяцца; пакры́ўдзіць, зьнявáжыць: ***He hurt his mother's feelings*** Ён пакрыўдзіў сваю́ мáці. 2. псавáць, шкóдзіць. 3. хвалявáць, засмучáць
– n. 1. бол|ь -ю *m.*; рáна *f.* 2. шкóда *f.*, зло *n.*; кры́ўда *f.*: ***It would do no hurt*** Не пашкóдзіла б

**hurtful** [ˈhɜ:rtfəl] adj. балю́чы, шкóдны; кры́ўдны, абрáзьлівы: ***a hurtful remark*** абрáзьлівая заўвáга

**husband** [ˈhʌzbənd] – n. муж -а *m.*
– v.t. ашчáдна гаспадáрыць, ашчаджáць: ***to husband one's strength*** ашчаджáць сваé сілы

**husbandry** [ˈhʌzbəndri] n. 1. землярóбства *n.*; сéльская гаспадáрка. 2. вядзéньне сваíх спрáваў, гаспадáраньне *n.* 3. асьцярóжнае гаспадáраньне; эканóмнасьць, ашчáднасьць, гаспадáрлівасьць, гаспадáрнасьць *f.*

**hush** [hʌʃ] – v.t. 1. супакóйваць, суцішáць, сунімáць. 2. суцéшыць
– v.i. супакóйцца, суцішáцца, сунімáцца (*пра вéцер*): ***to hush up*** замóўчваць; утóйваць

– n. цішыня́ *f.*, маўча́ньне *n.*
– interj. цішэ́й!
**hushful** [ˈhʌʃfəl] adj. маўклі́вы, ці́хі
**hush money** ха́бар за маўча́ньне
**husk** [hʌsk] – n. 1. мякі́на *f.* (*збо́жжавых і травяны́х культу́раў*); луска́ *f.*, шалупі́ньне *n.*, абало́нка *f.* 2. ліставая абго́ртка катаха́ кукуру́зы. 3. сухо́е *або́* бязва́ртаснае во́нкавае по́крыва
– v.t. лу́шчыць, абіра́ць луску́, аблу́пліваць: ***to husk the corn*** аблупі́ць кукуру́зу
• ***the husk of a man*** цень чалаве́ка
**husky I** [ˈhʌski] adj. 1. сухі́ (*пра ка́шаль*), хры́плы (*пра го́лас*). 2. з луско́ю, у шалупі́ньні. 3. Informal ро́слы, мо́цны, здаро́вы
**husky II** [ˈhʌski] n. сібі́рская ла́йка
**hustle** [ˈhʌsəl] – v.i. 1. сьпяша́цца, міту́сіцца сьпяша́ючыся. 2. працава́ць энэргі́чна й ху́тка; прабіра́цца, прабіва́цца (*праз нато́ўп, жыцьцё*). 3. здабыва́ць гро́шы нелега́льна
– v.t. піха́ць, шту́рхаць, выштурхо́ўваць, выкіда́ць
– n. 1. пасьпе́х -у *m.*, таўкатня́ *f.* 2. штурхані́на *f.*, піха́ньне *n.* 3. Informal энэргі́чная дзе́йнасьць
**hut** [hʌt] n. ха́тка, хаці́на, бу́дка *f.*
**hutch** [hʌtʃ] – n. 1. кле́тка *f.* (*для зьвярко́ў*). 2. хаці́на, ха́тка *f.* 3. скры́ня *f.*, ку́фар -ра *m.*
– v.t. садзі́ць у кле́тку, кла́сьці ў ку́фар, скры́ню
**hybrid** [ˈhaɪbrɪd] – n. гібры́д -а *m.*, по́месь *f.*
– adj. гібры́дны: ***a hybrid rose*** гібры́дная ру́жа
**hydra** [ˈhaɪdrə] n., pl. **-dras, -drae** гі́дра *f.*, а) прэснаво́дны палі́п. б) **-dri** насты́рлівае зло
**Hydra** гі́дра (*міталягі́чная дзевяцігало́вая пачва́ра*)
**hydrangea** [haɪˈdreɪndʒə] n., Bot. гартэ́нзія *f.*
**hydrant** [ˈhaɪdrənt] n. гідра́нт -а *m.*, пажа́рны кран
**hydrate** [ˈhaɪdreɪt] n. гідра́т -а *m.*: ***hydrate of lime*** га́шаная ва́пна
**hydraulic** [haɪˈdrɔːlɪk] adj. 1. гідраўлі́чны; вадзяны́: ***a hydraulic press*** гідраўлі́чны прэс. 2. які́ цьвярдзе́е ў вадзе́; ***hydraulic cement*** гідраўлі́чны цэмэ́нт
**hydraulics** [haɪˈdrɔːlɪks] n. гідра́ўліка *f.*
**hydrocarbon** [ˌhaɪdrəˈkɑːrbən] n. вуглевадаро́д -у *m.*
**hydroelectric** [ˌhaɪdroʊɪˈlektrɪk] adj. гідраэлектры́чны (*ста́нцыя*)
**hydrogen** [ˈhaɪdrədʒən] – n. вадаро́д -у *m.*
– adj. вадаро́дны: ***hydrogen bomb*** вадаро́дная бо́мба
**hydrogen peroxide** пе́ракіс вадаро́ду
**hydrography** [haɪˈdrɑːgrəfi] n. гідрагра́фія *f.*
**hydropathic** [ˌhaɪdrəˈpæθɪk] – adj. водалячэ́бны
– n. водалячэ́бніца *f.*
**hydropathy** [haɪˈdrɑːpəθi] n. водалячэ́ньне *n.* (*ва́ннамі, ду́шамі*)
**hydrophobia** [ˌhaɪdrəˈfoʊbiə] n. 1. шале́нства *n.* (*хваро́ба*). 2. вадабо́язь *f.*
**hydroplane** [ˈhaɪdrəpleɪn] n. 1. глі́сэр -а *m.* (*хуткахо́дная мато́рная ло́дка*). 2. гідрасамалёт, гідрапля́н -а *m.*
**hyena** [haɪˈiːnə] n. гіе́на *f.*
**hygiene** [ˈhaɪdʒiːn] n. гігіе́на *f.*
**hygienic** [ˌhaɪdʒiˈenɪk] adj. гігіені́чны
**hygroscopic** [ˌhaɪgrəˈskɑːpɪk] adj. гіграскапі́чны, здо́льны паглына́ць ві́льгаць
**hymen I** [ˈhaɪmən] n. дзяво́чая плява́
**hymen II** [ˈhaɪmən] n. 1. шлюб -у *m.*, жані́мства *n.* 2. вясе́льная пе́сьня
**hymn** [hɪm] – n. 1. царко́ўны гімн. 2. гімн -у *m.* (*нацыяна́льны*)
– v.t. пяя́ць гі́мны, услаўля́ць, усхваля́ць
**hyperbola** [haɪˈpɜːrbələ] n., pl. **-las**, Geom. гіпэ́рбала *f.*
**hyperbole** [haɪˈpɜːrbəli] n. 1. гіпэ́рбала *f.* (*маста́цкі прыём пераб́ольшаньня*). 2. перабо́льшаньне *n.*
**hyperbolic** [ˌhaɪpərˈbɑːlɪk] adj. 1. гіпэрбалі́чны, бага́ты гіпэ́рбаламі (*стыль*

*і пад.*); перабо́льшаны (*пахвала́*). 2. Geom. гіпэрбалі́чны (*сячэ́ньне*). 3. перабо́льшаны

**hypercritical** [ˌhaɪpərˈkrɪtɪkəl] adj. зана́дта крыты́чны, прыдзі́рлівы

**hyphen** [ˈhaɪfən] – n. злучlо́к -ка́ *m.*
– v.t. пі́саць праз злучо́к

**hyphenate** [ˈhaɪfəneɪt] v.t. лучы́ць злучко́м, пі́саць праз злучо́к

**hypnosis** [hɪpˈnoʊsɪs] n., pl. **-ses** гіпно́з -у *m.*

**hypnotic** [hɪpˈnɑːtɪk] – adj. 1. гіпнаты́чны (*сон*). 2. лёгка пада́тны на гіпно́з. 3. загіпнатызава́нlы, -ая, у ста́не гіпно́зу. 4. усыпля́льны, снатво́рны (*лек, сі́ла*)
– n. 1. нарко́тык -а *m.*, снатво́рнае *n.*, усыпля́льны сро́дак. 2. асо́ба ў ста́не гіпно́зу *або́* лёгка пада́тная на гіпно́з

**hypnotism** [ˈhɪpnəˌtɪzəm] n. 1. гіпнатызава́ньне *n.*, гіпнатыза́цыя *f.* 2. гіпнаты́зм -у *m.* 3. стан гіпно́зу, гіпно́з -у *m.*

**hypnotist** [ˈhɪpnətɪst] n. гіпнатызёр -а *m.*

**hypnotize** [ˈhɪpnətaɪz] v.t. 1. гіпнатызава́ць. 2. Informal аслабля́ць чыю́-н. во́лю, незаўва́жна браць пад свой уплы́ў

**hypochondria** [ˌhaɪpəˈkɑːndriə] n. гіпахо́ндрыя *f.*

**hypochondriac** [ˌhaɪpoʊˈkɑːndriæk] – n. гіпахо́ндрык -а *m.*, хво́ры на гіпахо́ндрыю
– adj. гіпахандры́чны

**hypocrisy** [hɪˈpɑːkrəsi] n., pl. **-sies** 1. крывaду́шнасьць, гіпакры́зія *f.* 2. прыкі́дваньне *n.*

**hypocrite** [ˈhɪpəkrɪt] n. 1. крывaду́шнік -а *m.*, крывaду́шніца *f.* 2. той, хто прыкі́дваецца

**hypocritical** [ˌhɪpəˈkrɪtɪkəl] adj. крывaду́шны, няшчы́ры: ***hypocritical smile*** крывaду́шная ўсьме́шка

**hypodermic** [ˌhaɪpəˈdɜːrmɪk] – adj. падску́рны (*кле́ткі*): ***a hypodermic injection*** падску́рны ўко́л
– n. 1. до́за ле́ку, упы́рснутага падску́ру 2. шпрыц шпры́ца *m.*

**hypotenuse** [haɪˈpɑːtənuːs] n. гіпатэну́за *f.*

**hypothesis** [haɪˈpɑːθəsɪs] n., pl. **-ses** 1. дапушчэ́ньне *n.*, гіпо́тэза *f.* 2. меркава́ньне *n.*, здага́дка *f.*

**hypothetical** [ˌhaɪpəˈθetɪkəl] adj. гіпатэты́чны, заснава́ны на меркава́ньні, на гіпо́тэзе

**hysteria** [hɪˈstɪriə] n. гістэ́рыя *f.*

**hysterical** [hɪˈsterɪkəl] adj. гістэры́чны, схі́льны да гістэ́рыі: ***a hysterical fit*** гістэры́чны прыпа́дак

**hysterics** [hɪˈsterɪks] n., pl. гістэ́рыка *f.*, прыпа́дак гістэры́чнага сьме́ху й пла́чу

# I

**I, i** [aɪ] n., pl. **I's, i's** *дзявя́тая лі́тара ангéльскага альфабэ́ту*

**I** [aɪ] pron. nom. я; obj. **me** мянé, мне

**ice** [aɪs] – n. 1. лёд -у *m.* 2. Sl. дыямэ́нты. 3. Brit. лёды *pl.*, марóзіва, марóжанае *n.* 4. Sl. хáбар -у *m.*
– adj. ледзяны́; лёдавы, лёдзісты (*пакры́ты лёдам*), абледзянéлы.
– v.t. 1. халадзíць, ахалóджваць (*лёдам*). 2. замарóжваць. 3. пакрывáць цукрóвай глязýрай
– v.i. мéрзнуць, замярзáць
• ***break the ice*** зрабíць пачáтак, пéршы крок (*да знаёмства, гýтаркі*)

**ice age,** Geol. ледавікóвы пэры́яд

**iceberg** [ˈaɪsbɜːrg] n. айсбэ́рг -а *m.*

**iceboat** [ˈaɪsboʊt] n. 1. бýер -а *m.* (*сáні зь вéтразем*). 2. ледакóл -а *m.*

**icebound** [ˈaɪsbaʊnd] adj. 1. скавáны лёдам (*пра ракý*). 2. зацёрты лёдам (*пра карабéль*)

**icebox** [ˈaɪsbɑːks] n. 1. лядóўня *f.* 2. халадзíльнік -а *m.*

**ice breaker** [ˈaɪsbreɪkər] n. 1. ледакóл -а *m.* (*карабéль*). 2. ледарэ́з -а *m.*

**ice cream** лёды *pl.*, марóзіва, марóжанае *n.*

**ice cube** кýбік лёду

**iced** [aɪst] adj. 1. ахалóджаны лёдам 2. пакры́ты лёдам, заледзянéлы. 3. глязуравáны, пакры́ты глязýрай

**ice drift** 1. ледахóд -у *m.* 2. тарóс -у *m.*

**ice floe** кры́га *f.*

**ice-free** [ˈaɪsfriː] adj. бязь лёду; які́ нікóлі не замярзáе: ***an ice-free port*** порт, які́ нікóлі не замярзáе

**ice hole** палóнка *f.*

**Icelander** [ˈaɪsləndər] n. 1. ісьля́нд|зец -ца *m.*, ісьля́ндка *f.*

**Icelandic** [aɪsˈlændɪk] – adj. ісьля́ндзкі
– n. ісьля́ндзкая мóва

**ice-skate** [ˈaɪsskeɪt] – n. канёк канькá *m.*, *pl.* канькí
– v.t. кóўзацца на канькáх

**ice water** 1. вадá, ахалóджаная лёдам. 2. ледзянáя вадá (*з растóпленага лёду*)

**ichthyology** [ɪkθɪˈɑːlədʒi] n. іхтыялёгія *f.*

**icicle** [ˈaɪsɪkəl] n. лядзя́ш ледзяшá, лядзя́к ледзякá *m.*

**icing** [ˈaɪsɪŋ] – n. цукрóвая глязýра, вярхýшка тóрта. Informal: ***icing on the cake*** дадаткóвая прынáда
– adj. ***icing sugar*** цукрóвая пýдра

**icon** [ˈaɪkɑːn] n. 1. ікóна *f.*, сьвяты́ абрáз. 2. кумíр -а, сы́мбал|ь -ю *m.*

**icteric** [ɪkˈterɪk] – n. 1. срóдак ад жаўтýхі. 2. чалавéк хвóры на жаўтýху
– adj. 1. жаўтýшны. 2. ужывáны для лячэ́ньня жаўтýхі

**icy** [ˈaɪsi] adj. 1. ледзяны́; сьцюдзёны. 2. пакры́ты лёдам. 3. халóдны й нявéтлы

**idea** [aɪˈdiːə] n. 1. дýмка, ідэ́я *f.*, разумéньне, уяўлéньне *n.*: ***to have an idea*** мець уяўлéньне. 2. паглядд -у *m.*, пе-

раканáньне *n.*, вéра *f.*: ***old-fashioned ideas*** старамóдныя пагля́ды. 3. уяў-лéньне *n.*, фантáзія *f.*: ***What's the big idea?*** Што за глу́пства вы заду́малі? 4. плян дзéяньня, намéр -у *m.*, заду́-ма *f.*

**ideal** [aɪˈdi:əl] – n. ідэáл -у *m.*
– adj. 1. ідэáльны, дасканáлы. 2. уяў-ны

**idealism** [aɪˈdi:əˌlɪzəm] n. ідэалíзм -у *m.*

**idealist** [aɪˈdi:ələst] – n. ідэалíст -а *m.*, ідэалíстка *f.*
– adj. ідэалісты́чны (*сьветапóгляд*)

**idealize** [aɪˈdi:əlaɪz] v.i. ідэалізавáць

**identical** [aɪˈdentɪkəl] adj. 1. ідэнты́чны, тóесны; такí сáмы 2. даклáдна ад-нóлькавы

**identically** [aɪˈdentɪkəli] adv. таксáма, аднóлькава

**identification** [aɪˌdentɪfɪˈkeɪʃən] n. атая-сьнéньне, атаясáмліваньне, атаясáм-леньне *n.*: ***identification card*** пасьвéд-чаньне асóбы

**identify** [aɪˈdentəfaɪ] v.t. 1. атаясáмлі-ваць, атаясьня́ць; распазнавáць, пры-знавáць тóесным з *кім-чым*. 2. вы-яўля́ць тóеснасьць, ідэнтыфікавáць

**identity** [aɪˈdentəti] n. 1. таясáмасьць, тóеснасьць, ідэнты́чнасьць *f.* 2. са-прáўднасьць, аўтэнты́чнасьць *f.*: ***identity card*** пасьвéдчаньне асóбы

**ideological** [ˌaɪdiəˈlɑ:dʒɪkəl] adj. ідэаля-гíчны, ідэ́йны

**ideologue** [ˈaɪdiəlɔ:g] n. ідэóляг -а *m.*

**ideology** [ˌaɪdiˈɑ:lədʒi] n., pl. **-gies** ідэа-лёгія *f.*

**idiocy** [ˈɪdiəsi] n., pl. **-cies** 1. ідыяты́зм -у *m.* 2. неразу́мнасьць, бязглу́здасьць *f.*

**idiom** [ˈɪdiəm] n. 1. ідыёма *f.* (*вы́раз ула-сьцíвы аднóй мóве*). 2. дыялéкт -у *m.*

**idiomatic** [ˌɪdiəˈmætɪk] adj. 1. ідыяма-ты́чны (*вы́раз*). 2. багáты на ідыёмы, які́ ўжывáе ідыёмы 3. дыялéктны

**idiot** [ˈɪdiət] – n. 1. ідыёт -а *m.*, ідыётка *f.* 2. ду́р|ань -ня *m.*, тупíц|а -ы *m & f.*
– adj. 1. ідыёцкі (*вы́раз твáру*) 2. не-разу́мны, дурны́, бязглу́зды

**idiotic** [ˌɪdiˈɑ:tɪk] adj. *гл.* **idiot,** adj.

**idle** [ˈaɪdəl] – adj. 1. незаня́ты; вóльны; бязьдзéйны; беспрацóўны: ***to stand idle*** прастóйваць (*пра фáбрыку*). 2. гультаявáты, лянíвы. 3. бескары́с-ны, мáрны, дарэ́мны. 4. пусты́, бес-падстáўны (*страх, вéсткі*)
– v.i. 1. нíчóга не рабíць, гультая-вáць, бязьдзéйнічаць. 2. прахóдж-вацца, туля́цца. 3. быць на халасты́м хаду́ (*пра матóр*)
– v.t. марнавáць, бязьдзéйна бáвіць (*час*)

**idleness** [ˈaɪdəlnəs] n. 1. бязьдзéйнасьць, незаня́тасьць *f.* 2. гультаявáньне, гультáйства *n.*; лянóта *f.*, абібóцтва *n.* 3. бескары́снасьць, мáрнасьць *f.*

**idler** [ˈaɪdlər] n. 1. гультá|й -я́ *m.*, гуль-тáйка *f.*; абібóк -а *m.*

**idol** [ˈaɪdəl] n. 1. íдал -а *m.* 2. кумíр -а *m.*, стод -а *m.*

**idolatry** [aɪˈdɑ:lətri] n., pl. **-tries** 1. ідала-паклóнства *n.* 2. пакланéньне *n.*; ба-гóмленьне *n.*

**idolize** [ˈaɪdəlaɪz] – v.t. 1. паклан́яцца *ка-му́* як íдалу, рабíць з *кагó* íдала 2. мóцна любíць *кагó*, захапля́цца *кім*
– v.i. пакланя́цца íдалам

**idyl(l)** [ˈaɪdəl] n. іды́лія *f.*

**idylic** [aɪˈdɪlɪk] adj. 1. цíхí, спакóйны, ні-чы́м не засму́чаны. 2. ідылíчны (*жанр, апісáньне*)

**i.e.** [ˌaɪˈi:] (id est, *лац.*) г.зн., гэ́та знáчыць

**if** [ɪf] conj. 1. калí, на вы́падак: ***Come if you can*** Прыдзéце, калí мóжаце. 2. калí б; каб: ***If only I'd known*** Калí б я тóлькі вéдаў. 3. ці: ***She doesn't know if he is here*** Янá ня вéдае, ці ён тут
• ***as if*** як бы́ццам, нíбы́та
• ***As if you didn't know!*** Нíбы́та ты ня вéдаў?

**igloo** [ˈɪglu:] n., pl. **-loos** íглу, *indecl.* (*эс-кімóскае жытлó*)

**igneous** [ˈɪgniəs] adj. 1. агнявы́. 2. Geol. вулканíчны: ***Granite is an igneous rock*** Гранíт — агнявáя парóда

**ignite** [ɪgˈnaɪt] – v.t. 1. запáльваць. 2. распáльваць, награвáць да чы́рвані
– v.i. запáльвацца, загарáцца, успа-лы́хваць (*пра пóлымя*)

**ignition** [ɪɡˈnɪʃən] n. запа́льваньне *n.* (*у аўтамабі́лі*); загара́ньне *n.*; успы́шка *f.* (*по́раху*): ***ignition key*** ключ запа́льваньня (*у аўтамабі́лі*)

**ignoble** [ɪɡˈnoʊbəl] adj. 1. бяз го́нару; по́длы, гане́бны; ні́зкі, агі́дны. 2. ні́зкага пахо́джаньня *або́* ста́ну. 3. ні́зкага гату́нку *або́* я́касьці

**ignominious** [ˌɪɡnəˈmɪniəs] adj. 1. гане́бны бяссла́ўны (*учы́нак*); зьнява́жлівы. 2. нікчэ́мны; з дрэ́ннай рэпута́цыяй

**ignominy** [ˈɪɡnəmɪni] n., pl. **-minies** 1. публі́чны со́рам і га́ньба; няслáва *f.* 2. гане́бнае трыма́ньне

**ignoramus** [ˌɪɡnəˈreɪməs] n., pl. **-muses** не́вук -а *m. & f.*, праста́к -á *m.*, праста́чка *f.*

**ignorance** [ˈɪɡnərəns] n. 1. не́вуцтва *n.*, няве́да *f.*, няве́даньне *n.* 2. неадукава́насьць, цямно́та *f.*

**ignorant** [ˈɪɡnərənt] adj. 1. неадукава́ны; цёмны, бязь ве́даў (*пра чалаве́ка*). 2. не́вуцкі, неасьве́чаны: ***an ignorant remark*** не́вуцкая заўва́га. 3. непаінфармава́ны, які́ ня ве́дае пра штось: ***He was ignorant of the fact that ...*** Ён ня ве́даў таго́, што ...

**ignore** [ɪɡˈnɔːr] v.t. 1. знаро́к не заўважа́ць, ігнарава́ць. 2. ня браць пад ува́гу, не зважа́ць; не рэагава́ць

**il-**, pref. 1. *фо́рма адмо́ўнае прыста́ўкі **in-** перад "**l**", як у*: ***illegal*** нелега́льны, ***illegible*** нечытэ́льны. 2. *фо́рма прыста́ўкі **in-** перад "**l**", як у*: ***illuminate*** асьвятля́ць

**Iliad** [ˈɪliəd] n. Ілія́да *f.*

**ill** [ɪl] – adj. **worse, worst** 1. хво́ры, нездаро́вы: ***To be ill with smallpox*** хварэ́ць на адзёр; ***to fall ill*** захварэ́ць 2. а) злы; благі́, дрэ́нны; ліхі́, лю́ты: ***ill fame*** нядо́брая сла́ва. б) шко́дны: ***ill effect*** шко́дны ўплы́ў. 3. неспрыя́льны; нешчасьлі́вы; няўда́чны: ***an ill wind*** неспрыя́льны ве́цер. 4. нядо́бры, зага́нны, дрэ́нны: ***ill manners*** дрэ́нныя мане́ры; ***ill luck*** няўда́ча *f.*, няшча́сьце *n* .: ***he had ill luck*** яму́ не пашанцава́ла. 5. няўме́лы; няспра́ўны

– n. 1. хваро́ба, не́мач *f.* 2. шко́да *f.*; бяда́ *f.*, няшча́сьце, зло *n.*: ***Poverty is an ill*** Бе́днасьць — гэ́та няшча́сьце

– adv. 1. блага, нядо́бра, дрэ́нна; шко́дна 2. неспрыя́льна, непрыхі́льна; нешчасьлі́ва. 3. няве́тла, нядо́бра; неміласэ́рна: ***He speaks ill of his friend*** Ён нядо́бра гаво́рыць пра свайго ся́бра; ***to take ill*** захварэ́ць

• ***ill at ease*** неспако́йны, устурбава́ны; сарамлі́вы

• ***take something ill*** абра́зіцца за не́шта

**ill-advised** [ˌɪlədˈvaɪzd] adj. неразу́мны; неразва́жны; неабду́маны

**ill-boding** [ˌɪlˈboʊdɪŋ] adj. злаве́сны, які́ выклікáе страх, трыво́гу; неспрыя́льны

**ill-bred** [ɪlˈbred] adj. нявы́хаваны; няве́тлівы, грубава́ты, грубія́нскі: ***ill-bred man*** грубія́н -а *m.*

**ill-conditioned** [ˌɪlkənˈdɪʃənd] adj. 1. з дрэ́ннай нату́рай, дрэ́нным хара́ктарам, сварлі́вы 2. у дрэ́нным ста́не, няспра́ўны

**ill-disposed** [ˌɪldɪsˈpoʊzd] adj. непрыя́зны, няве́тлы; неспрыя́льны, незычлі́вы, непрыхі́льна настро́ены

**illegal** [ɪˈliːɡəl] adj. незако́нны, нелега́льны; забаро́нены зако́нам, падпо́льны

**illegality** [ˌɪliːˈɡæləti] n., pl. **-ties** 1. незако́ннасьць, нелега́льнасьць *f.* 2. нелега́льшчына *f.*

**illegibility** [ɪˌledʒəˈbɪləti] n., pl. **-ties** неразбо́рлівасьць, нечытэ́льнасьць *f.*

**illegible** [ɪˈledʒəbəl] adj. неразбо́рлівы, нечытэ́льны; невыра́зны, цяжкачытэ́льны: ***illegible handwriting*** неразбо́рлівы по́чырк

**illegibly** [ɪˈledʒəbli] adv. неразбо́рліва, нечытэ́льна, невыра́зна

**illegitimacy** [ˌɪləˈdʒɪtəməsi] n., pl. **-cies** 1. наро́джанасьць па-за шлю́бам. 2. незако́ннасьць *f.*

**illegitimate** [ˌɪlɪˈdʒɪtəmət] – adj. 1. пазашлю́бны; нарóджаны па-за шлю́бам. 2. незако́нны; нязго́дны з пра́-

– v.i. [ɪnˈtri:g] 1. інтрыгава́ць, ве́сьці інтры́гі. 2. мець патае́мную любо́ў-ную су́вязь
– v.t. узбуджа́ць ціка́васьць
**intrinsic** [ɪnˈtrɪnsɪk] adj. 1. істо́тны, уласьці́вы. 2. Anat. нутраны́ (*му́скул*)
**introduce** [ˌɪntrəˈdu:s] v.t. 1. уво́дзіць; устаўля́ць, усо́ўваць. 2. прадстаўля́ць: ***Allow me to introduce myself*** Дазво́льце прадста́віцца. 3. знаё-міць. 4. уно́сіць, падава́ць (*для разгля́ду*)
**introduction** [ˌɪntrəˈdʌkʃən] n. 1. уво́дзіны pl., усту́п -у m.; прадмо́ва f. 2. азнаямле́ньне, прадстаўле́ньне n.
• ***letter of introduction*** рэкамэндацы́йны ліст
**introductory** [ˌɪntrəˈdʌktəri] adj. уво́дны, уступны́ (*разьдзе́л*); папярэ́дні (*заўва́га*)
**introspection** [ˌɪntrəˈspekʃən] n. самаана́ліз -у m., інтраспэ́кцыя f.
**intrude** [ɪnˈtru:d] – v.i. урыва́цца, прыхо́дзіць няпро́шаным *ці* нежада́ным, навя́звацца, уме́швацца
– v.t. навя́зваць, накіда́ць (*свае́ пагля́ды*)
**intruder** [ɪnˈtru:dər] n. 1. навя́зьлівая асо́ба. 2. паруша́льнік (*ме́жаў, но́рмаў*)
**intrusion** [ɪnˈtru:ʒən] n. 1. уварва́ньне няпро́шаным, наха́бнае навя́званьне. 2. бяспра́ўнае ўварва́ньне, напа́д. 3. Geol. інтру́зія f.
**intrusive** [ɪnˈtru:sɪv] adj. 1. даку́члівы, назо́йлівы. 2. інтрузі́ўны
**intrust** [ɪnˈtrʌst] v.t. *гл.* **entrust**
**intuition** [ˌɪntuˈɪʃən] n. прадба́члівасьць, здага́дка f.; інтуі́цыя f.
**intuitive** [ɪnˈtu:ətɪv] adj. прадба́члівы, інтуіцы́йны
**inturned** [ˌɪnˈtɜ:rnd] adj. зьве́рнуты ўсярэ́дзіну
**inundate** [ˈɪnʌndeɪt] v.t. 1. залiва́ць, затапля́ць. 2. перапаўня́ць
**inundation** [ˌɪnʌnˈdeɪʃən] n. перапо́ўненьне n.; паво́дка f., разво́дзьдзе n.
**inure** [ɪnˈjʊr] – v.t. зачаро́ўваць, прывуча́ць, прызвыча́йваць
– v.i. служы́ць, ісьці́ на кары́сьць
**invade** [ɪnˈveɪd] v.t. урыва́цца; займа́ць; захапля́ць; напада́ць
**invader** [ɪnˈveɪdər] n. захо́пнік -а m.
**invalid I** [ˈɪnvələd] – n. 1. хво́р|ы -ага m. 2. кале́к|а -і m., інвалі́д -а m.
– adj. 1. слабы́ й хво́ры, нездаро́вы, непрацаздо́льны. 2. інвалі́дны
– v.t. 1. кале́чыць, рабі́ць кале́кам. 2. прызнава́ць нязда́тным, непрыго́дным да вайско́вае слу́жбы
– v.i. кале́чыцца, станаві́цца інвалі́дам
**invalid II** [ɪnˈvælɪd] adj. нява́жны, які́ ня ма́е зако́ннае сі́лы (*біле́т, дакумэ́нт*)
**invalidate** [ɪnˈvælɪdeɪt] v.t. пазбаўля́ць зако́ннае сі́лы, анулява́ць; уневажня́ць
**invalidation** [ɪnˌvælɪˈdeɪʃən] n. анулява́ньне, скасава́ньне n.
**invalidity** [ˌɪnvəˈlɪdəti] n. нява́жнасьць, бязва́ртаснасьць f.
**invaluable** [ɪnˈvæljuəbəl] adj. неацэ́нны; ве́льмі кашто́ўны *або́* дарагі́
**invariable** [ɪnˈveriəbəl] – adj. нязьме́нны, нязьме́нлівы, ста́лы
– n. Math. канста́нта f.
**invariant** [ɪnˈveriənt] n. Math. інварыя́нт -у m., нязьме́ная велічыня́
**invasion** [ɪnˈveɪʒən] n. 1. напа́д -у m., нашэ́сьце n. 2. зама́х -у m. (*на правы́*); парушэ́ньне (*право́ў або́ спако́ю*)
**invective** [ɪnˈvektɪv] n. 1. во́страя напа́дкі, ла́янка f. 2. інвэкты́ва f.
**inveigh** [ɪnˈveɪ] v.i. во́стра крытыкава́ць; га́ніць, ла́яць
**invent** [ɪnˈvent] v.t. 1. вынахо́дзіць. 2. прыдумля́ць, выдумля́ць
**invention** [ɪnˈvenʃən] n. 1. вынахо́дства n. 2. вынахо́дка f. (*то́е, што вы́найдзена*). 3. вынахо́длівасьць f. 4. вы́думка f.
**inventive** [ɪnˈventɪv] adj. 1. вынахо́длівы, здо́льны ствара́ць, вынахо́дзіць но́вае. 2. вынахо́дніцкі
**inventor** [ɪnˈventər] n. вынахо́дц|а -ы m., вынахо́днік -а m., вынахо́дніца f.
**inventory** [ˈɪnvəntɔ:ri] – n., pl. **-ries** 1. інвэнта́р -у́ m. 2. во́піс маёмасьці, рэ́естр|ар -у m.

– v.t. складáць інвэнтáр, інвэнтарызавáць, уносіць у сьпіс

**inverse** [ɪnˈvɜ:rs] – adj. 1. вы́вернуты, перавéрнуты. 2. адварóтны, супрацьлéглы: ***inverse ratio*** адварóтная прапóрцыя.
– n. 1. супрацьлéгласьць *f.* 2. адварóтны бок, кірýнак
– v.t. 1. выварóчваць, параварóчваць. 2. супрацьстаўля́ць

**inversion** [ɪnˈvɜ:rʒən] n. 1. параварóчваньне; зьмянéньне нармáльнага парáдку на адварóтны. 2. інвэ́рсія *f.*

**invert** [ɪnˈvɜ:rt] v.t. 1. параварóчваць; паракýльваць дагары́ нагáмі. 2. пераставля́ць

**invertebrate** [ɪnˈvɜ:rtɪbrət] – adj. 1. бесхрыбéтны, беспазванóчны. 2. бесхрыбéтны, няўстóйлівы, беспрынцыпóвы
– n. 1. бесхрыбéтныя беспазванóчныя жывёлы. 2. бесхрыбéтны, беспрынцыпóвы чалавéк

**invest** [ɪnˈvest] v.t. 1. укладáць (*капітáл*), інвэставáць. 2. пакрывáць, апранáць, ахінáць, ахýтваць. 3. (with) надзяля́ць улáдай, паўнамóцтвамі, прáвам

**investigate** [ɪnˈvestɪgeɪt] v. дасьлéдаваць, рассьлéдаваць; разьбірáцца, дазнавáцца, давéдвацца

**investigation** [ɪnˌvestɪˈgeɪʃən] n. дасьлéдаваньне *n.*, дóсьлед -у *m.*; сьлéдзтва, дазнáньне *n.*

**investigator** [ɪnˈvestɪgeɪtər] n. сьлéдчы -ага *m.*, дасьлéднік -а *m.*: ***judicial investigator*** судóвы сьлéдчы

**investment** [ɪnˈvestmənt] n. 1. укладáньне (*капітáлу*), інвэставáньне *n.* 2. уклáдзены капітáл, інвэсты́цыя *f.*

**investor** [ɪnˈvestər] n. капітáлаўклáднік; інвэ́стар -а *m.*

**inveteracy** [ɪnˈvetərəsi] n, pl. **-cies** 1. закаранéласьць (*нáвыкаў*), застарэ́ласьць *f.* (*хварóбы*). 2. закаранéлая варóжасьць, забабóннасьць

**inveterate** [ɪnˈvetərət] adj. 1. заядлы. 2. застарэ́лы, задаўнéлы (*хварóба*), закаранéлы

**invigorate** [ɪnˈvɪgəreɪt] v.t. давáць сíлы, узмацня́ць; дадавáць энэ́ргіі, падбадзёрваць

**invincible** [ɪnˈvɪnsəbəl] adj. неперамóжны, неадóльны, непрыстýпны

**invisible** [ɪnˈvɪzəbəl] adj. нябáчны

**invitation** [ˌɪnvɪˈteɪʃən] n. 1. запрóсіны *pl. only.* 2. запрóшваньне, прынáджваньне, спакушэ́ньне *n.*

**invite** [ɪnˈvaɪt] v.t. 1. запрашáць. 2. прыця́гваць. 3. выклікáць: ***Your statement invites explanation*** Вáшая заўвáга патрабýе вытлумачэ́ньня

**invoice** [ˈɪnvɔɪs] n. рахýн|ак -ку *m.*, накладнáя, фактýра *f.*

**invoke** [ɪnˈvoʊk] v.t. 1. клíкаць, прасíць (*ратýнку*). 2. умóльваць, малíць. 3. выклікáць

**involuntarily** [ɪnˌvɑ:lənˈterəli] adv. міжвóлі, міжвóльна, мімавóльна

**involuntary** [ɪnˈvɑ:lənteri] adj. 1. неахвóчы, нясхíльны. 2. міжвóльны, мімавóльны; ненаўмы́сны, няўмы́сны. 3. несьвядóмы, інстынкты́ўны

**involve** [ɪnˈvɑ:lv] v.t. 1. улучáць у сябé. 2. захапля́ць, зьмяшчáць у сабé. 3. закранáць. 4. ублы́тваць; умéшваць; выклікáць, быць прычы́най. 5. (in) займáцца *чым.* 6. заблы́тваць, ускладня́ць

**invulnerability** [ɪnˌvʌlnərəˈbɪləti] n. 1. непаражáльнасьць *f.* 2. няўрáзьлівасьць, непрыстýпнасьць (*да нападáў*) *f.*

**invulnerable** [ɪnˈvʌlnərəbəl] adj. 1. няўрáзьлівы, непаражáльны. 2. непрыстýпны (*да нападáў*)

**inward** [ˈɪnwərd] – adv. усярэ́дзіну, унýтр
– adj. 1. нутраны́. 2. разумóвы, духóвы: ***inward peace*** нутраны́ супакóй
– n. нутраны́ бок, нутрó *n.*

**iodine** [ˈaɪədaɪn] n. ёд -у *m.*

**ion** [ˈaɪən] n. іён -а *m.*

**ir-** prefix *фóрма адмóўнае прыстáўкі* ***in-*** *( = not) перад* ***r****, як у* ***irregular***

**Iranian** [ɪˈreɪniən] – adj. ірáнскі
– n. ірáн|ец -ца *m.*, ірáнка *f.*

**Iraqi** [ɪˈrɑ:ki] – n. жыхáр Ірáку

– adj. іра́цкі

**irate** [aɪˈreɪt] adj. гнеўны, раззлава́ны

**iridescent** [ˌɪrɪˈdesənt] adj. 1. вясёлкавы. 2. пералі́вісты

**iris** [ˈaɪrɪs] n. 1. Anat. ра́дужная абало́нка (*во́ка*), і́рыс -а *m.* 2. Bot. і́рыс -а, каса́ч -а́ *m.*

**Irish** [ˈaɪrɪʃ] – adj. ірля́ндзкі
– n. 1. ірля́ндзкі наро́д, ірля́ндцы. 2. ірля́ндзкая мо́ва

**Irishman** [ˈaɪrɪʃmən] n., pl. **-men** ірля́ндзец -ца *m.*

**Irishwoman** [ˈaɪrɪʃˌwʊmən] n., pl. **-women** ірля́ндка *f.*

**irksome** [ˈɜ:rksəm] adj. стамля́льны; надаку́члівы; ну́дны; даку́члівы

**iron** [aɪrn] – n. 1. жале́за, зяле́за *n.* 2. вы́рабы з жале́за. 3. прас -а *m.*
– adj. 1. жале́зны. 2. мо́цны, ду́жы 3. цьвёрды, сто́йкі
– v.t. 1.прасава́ць. 2. пакрыва́ць жале́зам
• ***iron out*** згла́джваць (*супярэ́чнасьці*); ула́джваць
• ***irons*** кайданы́ *pl. only.*

**ironclad** [ˈaɪrnklæd] – adj. 1. непару́шны, мо́цны. 2. браніраваны
– n. браняно́сец -ца *m.*

**Iron Curtain** Жале́зная засло́на

**ironic** [aɪˈrɑ:nɪk] or **ironical** [aɪˈrɑ:nɪkəl] adj. іраны́чны

**ironstone** [ˈaɪrnstoʊn] n. жале́зная руда́

**ironworks** [ˈaɪrnwɜ:rks] n.; pl. or sing. жале́заапрацо́ўчы заво́д

**irony I** [ˈaɪrəni] n., pl. **-nies** іро́нія *f.*

**irony II** [ˈaɪrni] adj. жале́зны; жале́зісты

**irradiate** [ɪˈreɪdieɪt] v. 1. асьвятля́ць. 2. зьзяць, сьвяці́ць; зіхаце́ць. 3. выпрамя́ньваць, вылуча́ць (*сьвятло́, цяпло́*). 4. апраме́ньваць

**irradiation** [ɪˌreɪdiˈeɪʃən] n. 1. бляск -у *m.*, зьзя́ньне *n.* 2. праме́нь сьвятла́. 3. абпраме́ньваньне *n.* 4. Optics ірадыя́цыя *f.*

**irrational** [ɪˈræʃənəl] adj. 1. нерацыяна́льны, неразу́мны, неразва́жны, нелягі́чны. 2. Math. ірацыяна́льны

**irreclaimable** [ɪrɪˈkleɪməbəl] adj. 1. безваро́тны, незваро́тны: ***irreclaimable land*** зямля́ непрыго́дная да карыста́ньня. 2. непапра́ўны (*п'я́ніца*)

**irreconcilable** [ˌɪrəkənˈsaɪləbəl] adj. 1. непрымі́рымы. 2. супярэ́члівы; несумяшча́льны

**irrecoverable** [ˌɪrɪˈkʌvərəbəl] adj. 1. безваро́тны, згу́блены; незваро́тны. 2. непапра́ўны (*го́ра, страта*)

**irredeemable** [ˌɪrɪˈdi:məbəl] adj. 1. які́ не падляга́е вы́купу (*а́кцыя*). 2. непапра́ўны, безнадзе́йны (*чалаве́к*)

**irreducible** [ˌɪrɪˈdu:səbəl] adj. 1. Math. нескарача́льны. 2. мініма́льны

**irrefutable** [ˌɪrɪˈfju:təbəl] adj. бясспрэ́чны, неабве́ржны

**irregular** [ɪˈregjələr] adj. 1. нераўнаме́рны; няро́ўны, нерэ́гулярны (*пульс*). 2. незвыча́йны. 3. ненарма́льны. 4. Milit. нерэгуля́рны (*пра во́йска*). 5. Gram. няпра́вільны (*дзеясло́ў*)

**irregularly** [ɪˈregjələrli] adv. няро́ўна; нераўнаме́рна; нерэгуля́рна

**irrelevance** [ɪˈreləvəns] n. 1. неадпаве́днасьць *f.* 2. незьвяза́насьць з тэ́май

**irrelevant** [ɪˈreləvənt] adj. не да ме́сца; не на тэ́му; недарэ́чны; непатрэ́бны; несто́тны

**irremediable** [ˌɪrɪˈmi:diəbəl] adj. невыле́чны; непапра́ўны

**irremissible** [ˌɪrɪˈmɪsəbəl] adj. 1. непрабача́льны, недарава́льны. 2. забавяза́льны

**irreparable** [ɪˈrepərəbəl] adj. непапра́ўны

**irrepressible** [ˌɪrɪˈpresəbəl] adj. нястры́мны; неўтаймо́ўны; шалёны, лю́ты (*гнеў*)

**irrepressibly** [ˌɪrɪˈpresəbli] adv. нястры́мна, неўтаймо́ўна

**irreproachable** [ˌɪrɪˈproʊtʃəbəl] adj. беззага́нны, бездако́рны

**irresistible** [ˌɪrɪˈzɪstəbəl] adj. 1. неадо́льны 2. прыва́бны

**irresolute** [ɪˈrezəlu:t] adj. няпэ́ўны, нерашу́чы; хі́сткі

**irresponsible** [ˌɪrɪˈspɑ:nsəbəl] adj. безадка́зны

**irreverence** [ɪˈrevərəns] n. непаша́на *f.;* непачці́васьць *f.*

**irreverent** [ɪˈrevərənt] adj. непачці́вы, недаліка́тны

**irreversible** [ˌɪrɪˈvɜːrsəbəl] adj. неабарача́льны; неадме́нны

**irrevocable** [ˌɪrɪˈvoukəbəl] adj. 1. канчатко́вы, беззваро́тны, неадме́нны. 2. неадкліка́льны (*пастано́ва*)

**irrigate** [ˈɪrɪgeɪt] v.t. 1. араша́ць, увільгатня́ць (*глё́бу*). 2. Med. прамыва́ць (*ра́ну*)

**irrigation** [ˌɪrɪˈgeɪʃən] n. араш́эньне *n.*

**irritability** [ˌɪrətəˈbɪləti] n., pl. **-ties** раздражня́льнасьць *f*, узбуджа́льнасьць (*о́ргану*)

**irritable** [ˈɪrətəbəl] adj. раздражня́льны; ура́зьлівы, узбуджа́льны

**irritant** [ˈɪrətənt] – n. раздражня́льны сро́дак, раздражня́льнік -у *m.*
– adj. дражлі́вы; раздражня́льны

**irritate** [ˈɪrɪteɪt] v.t. 1. раздражня́ць, дакуча́ць; злава́ць. 2. выкліка́ць раздражне́ньне *або́* запале́ньне

**irritated** [ˈɪrɪteɪtəd] adj. узбу́джаны, раздражнёны (*чалаве́к, ску́ра*)

**irritating** [ˈɪrɪteɪtɪŋ] adj. дражлі́вы

**irritation** [ˌɪrɪˈteɪʃən] n. 1. раздра́жненьне, знэрвава́ньне *n.*; злосьць *f.* 2. раздра́жненьне *n.* (*ску́ры*)

**irritative** [ˈɪrɪtətɪv] adj. 1. даку́члівы; дражлі́вы 2. Med. спалу́чаны з *або́* вы́кліканы раздра́жненьнем: ***an irritative fever*** гара́чка вы́кліканая раздра́жненьнем *або́* спалу́чаная з раздра́жненьнем

**irruption** [ɪˈrʌpʃən] n. уварва́ньне *n.*; наéзд, набе́г, напа́д -у *m.*

**is** [ɪz] v.i. ёсьць: ***there is not*** няма́; ***as is*** як ёсьць

**Islam** [ˈɪzlɑːm] n. 1. Іслa̋м -у *m.*, мусульма́нства *n.* 2. мусульма́не *pl.* 3. мусульма́нскі сьвет

**island** [ˈaɪlənd] n. абто́к -а *m.*, во́страў -ва *m.*, вы́спа *f.*

**islander** [ˈaɪləndər] n. жыха́р, жыха́рка абто́ка, астраўля́нін -а *m.*, астраўля́нка *f.*

**isle** [aɪl] n. малы́ абто́к, во́страў -ва *m.*

**islet** [ˈaɪlət] n. астраўо́к -ўка́ *m.*

**isolate** [ˈaɪsəleɪt] v.t. 1. аддзяля́ць, адасабля́ць, ізалява́ць. 2. Chem. аддзяля́ць, выдзяля́ць (*з су́месі*). 3. Electr. ізалява́ць

**isolation** [ˌaɪsəˈleɪʃən] n. 1. ізалява́ньне *n.*; ізаля́цыя *f.* 2. адзіно́та, само́та *f.*

**issue** [ˈɪʃuː] – v.t. 1. выпушча́ць, выпуска́ць (*гро́шы, газэ́ту*). 2. выдава́ць (*кні́гі*). 3. раздава́ць, выдзяля́ць
– v.i. 1. выхо́дзіць (*з дру́ку*). 2. мець вы́нік
– n. 1. выда́ньне *n.* (*кні́гі*). 2. вы́пуск -у *m.* (*гро́шай*). 3. канчатко́вы вы́нік -у *m.*, рэзульта́т -у *m.* 4. вы́хад -у *m.* 5. пыта́ньне, спра́ва: ***Point at issue*** пыта́ньне пад разгля́дам

**it** [ɪt] – pron. 1. ён, яна́, яно́; poss. **its** яго́ны, е́йны, яго́ны; pl.n.**they** яны́; poss. **their** or **theirs** і́хні; obj. **them** яны́; demonstr. гэ́та, вось: ***Here is your paper; read it*** Вось твая́ газэ́та, чыта́й яе́. 2. *у ро́лі дзе́йніка зь безасабо́вым дзеясло́вам*: ***It is raining*** Ідзе́ дождж; ***It is cold*** Хало́дна; ***It snows in winter*** Узі́мку ідзе́ сьнег. 3. *у ро́лі дапаўне́ньня*: ***He thinks he's it*** Ён лі́чыць сябе́ не́чым ва́жным
– n. 1. (*у гу́льнях*) гуле́ц, які́ му́сіць лаві́ць, шука́ць, адга́дваць. 2. Informal не́шта прыва́бнае, апо́шняе сло́ва мо́ды: ***She has it*** Яна́ ма́е не́шта прыва́бнае

**Italian** [ɪˈtæljən] – adj. італья́нскі, італі́йскі
– n. 1. італья́нец -ца *m.*, італья́нка *f.* 2. італья́нская мо́ва

**italic** [ɪˈtælɪk] – adj. курсі́ўны
– n. курсі́ў -ву *m.*

**italicize** [ɪˈtælɪsaɪz] v.t. выдзяля́ць курсі́вам

**itch** [ɪtʃ] – n. 1. сьверб -у *m.* 2. пра́га *f.*, нецярплі́вае жада́ньне: ***the itch*** каро́ста, сьвярбя́нка *f.* (*хваро́ба*)
– v.i. 1. сьвярбе́ць. 2. пра́гнуць, мець мо́цнае жада́ньне: ***He is itching to tell us the news*** Яму́ ня це́рпіцца сказа́ць нам наві́ну

**itchy** [ˈɪtʃi] adj. сьвярблі́вы

**item** [ˈaɪtəm] – n. 1. прадмéт -у *m.*; рэч *f.*: ***The list contains ten items*** У сьпíсе дзéсяць прадмéтаў. 2. пункт -у *m.*; парáграф -у *m.*, артыкул -у *m.* (*рахýнку, расхóду*); пытáньне *n.* (*у парáдку дня*); нýмар (*праграмы*): ***to answer a letter item by item*** адкáзваць на ліст па пýнктах. 3. газэ́тная зáцемка, навінá, вéстка *f.*, паведамлéньне *n.*

– v.t. запíсваць па пýнктах *абó* прадмéтах

**itemize** [ˈaɪtəmaɪz] v.t. пералічáць па пýнктах

**iterate** [ˈɪtəreɪt] v.t. паўтарáць

**iteration** [ˌɪtərˈeɪʃən] n. паўтарэ́ньне *n.*

**iterative** [ˈɪtəreɪtɪv] adj. 1. які паўтарáецца; пóўны паўтарэ́ньняў. 2. Gram. паўтóрны

**itinerant** [aɪˈtɪnərənt] adj. вандрóўны, падарóжны, аб'язны: ***an itinerant judge*** or ***preacher*** аб'язны судзьдзя *абó* прапавéднік

**itinerary** [aɪˈtɪnəreri] n., pl. **-aries** 1. маршрýт -у *m.*; плян падарóжжа. 2. зáпісы *абó* дзёньнік падарóжжа. 3. давéднік для падарóжнікаў

**its** [ɪts] poss. pron. ягóны, ягóная, ягóнае; свой, свая, сваё

**it's** [ɪts] *скарóт ад* : 1. **it is**. 2. **it has**

**itself** [ɪtˈself] pron. 1. сам, самá, самó: ***The land itself is worth more*** Самá зямля вáртая больш. 2. *зварóтная фóрма ад* **it**: ***The horse hurt itself*** Конь скалéчыўся

**I've** [aɪv] *скарóт ад* **I have**

**ivory** [ˈaɪvəri] – n., pl. **-ries** 1. сланóвая кóстка. 2. крэ́мава-бéлы кóлер

– adj. 1. з сланóвае кóсткі. 2. крэ́мава-бéлы, кóлеру сланóвае кóсткі

• ***ivories,*** Sl. а) клявішы (*піяніна, гармóніка*). б) більярдныя кýлі в) кóсьці для гульні. г) зýбы

• ***ivory black*** фáрба з пáленае сланóвае кóсткі

**ivory tower** вéжа з сланóвае кóсткі

**ivy** [ˈaɪvi] n., pl. **ivies,** Bot. плюшч -ý *m.*

# J

**J, j** [dʒeɪ] n.,pl. **J's, j's** *дзяся́тая лі́тара англе́льскага альфабэ́ту*

**jab** [dʒæb] – n. штуршо́к, уда́р чым-н. во́стрым

– v.t. **(-bb-)** ты́каць, по́ркаць, то́ркаць

**jabber** [ˈdʒæbər] – v. балбата́ць, лапата́ць, бармата́ць

– n. балбатня́ *f.*, лапата́ньне *n.*

**jack** [dʒæk] – n. 1. падва́жнік, рыча́г -га́, дамкра́т -а *m.* 2. ні́жнік, вале́т -а *m.* (*у ка́ртах*). 3. сьця́г на караблі́. 4. а) мужчы́н|а -ы *m.*; хлапі|е́ц -ца́ *m.* б) зьверсаме́ц (*пра аслá, за́йца*). 5. ко́злы *pl. only* (*для пілава́ньня*)

– v.t. падыма́ць дамкра́там

**jackal** [ˈdʒækəl] n. 1. шака́л -а *m.* 2. наёмны фізы́чны рабо́тнік

**jackass** [ˈdʒækæs] n. 1. ас|ёл -ла́ *m.* 2. ёлуп|ень -ня *m.*, дуры́л|а -ы *m. & f.*

**jackboot** [ˈdʒækbu:t] n. высо́кі бот

**jackdaw** [ˈdʒækdɔ:] n. га́лка *f.*

**jacket** [ˈdʒækɪt] – n. 1. а) (*мужчы́нскі*) пінжа́к -а́ *m.*, ку́ртка *f.* б) (*жано́чы*) жаке́т -а *m.*, жаке́тка *f.* 2. во́кладка *f.* а) ***a dust jacket (for a book)*** супэрво́кладка. б) па́пка, во́кладка для дакумэ́нтаў. 3. лупі́на *f.* (*бу́льбы*)

– v.t. 1. апрана́ць (*ку́ртку, жаке́т*). 2. Informal бі́ць, лупцава́ць

**jackfish** [ˈdʒækfɪʃ] n., pl. **-fishes** or coll. **-fish** шчупа́к -а́ *m.* (*асабл. малады́*)

**jackknife** [ˈdʒæknaɪf] n., pl. **-knives** склада́ны но́ж

**jack-o'-lantern** [ˌdʒækəˈlæntərn] n. 1. ліхта́р з гарбуза́ (*зь дзі́ркамі ў фо́рме вачэ́й, но́са й ро́ту*). 2. блука́ючыя агні́ (*на бало́це*)

**jackpot** [ˈdʒækpɑ:t] n. вялі́кі вы́йгрыш (*у лятарэ́і*), куш, банк -у *m.* (*у ка́ртах*)

**jade I** [dʒeɪd] n. 1. жадэі́т, нэфры́т -у *m.* (*мінэра́л*) 2. зялёны ко́лер

**jade II** [dʒeɪd] – n. 1. кля́ча *f.*

– v.t. заяжджа́ць (*каня́*); стамля́ць, змо́рваць. 2. тупі́ць (*нож*); пераны́чваць (*раство́р*)

– v.i. змары́цца, стамі́цца; ступі́цца

**jag** [dʒæg] – n. во́стры вы́ступ (*ска́лы*); нарэ́з, надрэ́з -у *m.*

– v.t. 1. рабі́ць нарэ́зы, засе́чкі 2. ірва́ць *або́* рэ́заць няро́ўна

**jaguar** [ˈdʒægwɑ:r] n. ягуа́р -а *m.*

**jail** [dʒeɪl] – n. астро́г -у *m.*, турма́ *f.*: ***to break out of jail*** уцячы́ з астро́гу

– v.t. садзі́ць у астро́г, трыма́ць у астро́зе

**jailer** [ˈdʒeɪlər] n. турэ́мны або́ астро́жны нагля́дчык

**jam I** [dʒæm] – v.t. **(-mm-)** 1. сьціска́ць, заціска́ць. 2. зашчамля́ць (*па́лец дзьвяры́ма*). 3. бітко́м набіва́ць, загрува́шчваць, запаўня́ць (*прахо́д*). 4. глушы́ць, заглуша́ць (*радыёперада́чу*)

– v.i. зашчамля́цца, заяда́ць: ***The window jammed and I can't open it*** Акно́ зае́ла, і я не магу́ адчыні́ць яго́

– n. 1. затóр -у *m.* 2. таўкатня́ *f.*; таўканíна *f.*, цяснóта *f.* 3. Informal цяжкóе станóвішча

**jam II** [dʒæm] n. джэм -у *m.*, сóчыва, варэ́ньне *n.*

**jamb** [dʒæm] n. вушáк -á *m.* (*акóнны абó дзьвярны́*)

**jamboree** [ˌdʒæmbəˈri:] n. скáўцкі зьлёт

**jampack** [ˈdʒæmpæk] v.t., Informal набівáць біткóм

**janitor** [ˈdʒænətər] n. 1. двóрнік -а *m.*, стóраж -а, вартаўнíк -á *m.*, прыбірáльшчык -а *m.* 2. брáмнік, швэ́йцар -а *m.*

**January** [ˈdʒænjueri] – n., pl. **-aries** стýдзен|ь -я *m.*

– adj. стýдзеньскі

**Japanese** [ˌdʒæpəˈni:z] – adj. япóнскі

– n., pl. **-nese** 1. япóн|ец -ца *m.*, япóнка *f.* 2. япóнская мóва

**jar I** [dʒɑ:r] n. збан -á *m.*, збан|óк -кá *m.*; сло|й -я *m.*, слóік -а *m.*

**jar II** [dʒɑ:r] v. **(-rr-)** – v.t. 1. вы́клікаць брынчэ́ньне *абó* дрыжэ́ньне, брáзгат *абó* вíзгат. 2. трэ́сьці. 3. раздражня́ць, злавáць, абурáць

– v.i. 1. трэ́сьціся, брынчэ́ць, дрыжэ́ць. 2. сварьі́цца, мóцна не згаджáцца, дзéяць на нэ́рвы

– n. 1. брынчэ́ньне *n.*; брáзгат -у *m.* 2. непрыéмнае ўрáжаньне, шок -у *m.* 3. нязгóда *f.*, разыхóджаньне паглядаў, дрóбныя свáркі

**jargon** [ˈdʒɑ:rgən] n. жаргóн -у *m.*

**jasmine** [ˈdʒæzmɪn] n. язьмíн -у *m.*

**jaundice** [ˈdʒɔ:ndɪs] – n. 1. Med. жаўтýха *f.* 2. злóсная незычлíвасьць, зáйздрасьць

– v. 1. выклікáць жаўтýху. 2. выклікáць зáйздрасьць, зайздрóсьлівасьць

**jaundiced** [ˈdʒɔ:ndɪst] adj.1. хвóры на жаўтýху. 2. жóўты ад зáйздрасьці

**jaunt** [dʒɔ:nt] – n. пагуля́нка, вандрóўка *f.*, вы́езд -у *m.*, экскýрсія *f.*

– v.i. пайсьцí на пагуля́нку, зрабíць вы́езд, экскýрсію

**jauntily** [ˈdʒɔ:ntɪli] adv. 1. жвáва, весёла; размáшыста (*ісьцí*) 2. элегáнтна, прыгóжа, стылёва

**jaunty** [ˈdʒɔ:nti] adj. 1. лёгкі, жвáвы; вясёлы; бестурбóтны, размáшысты (*пра крок*). 2. элегáнтны, прыгóжы; стылёвы

**jaw** [dʒɔ:] – n. 1. скíвіца *f.* 2. Sl. плёткі *pl.*, разьвя́зная гýтарка

– v. 1. пляткáрыць. 2. прабірáць *кагó*, сварьі́цца на *кагó*

**jawbone** [ˈdʒɔ:boʊn] n. сківíчная косьць

**jaws** 1. рот -у *m.*; пáшча, зя́па *f.* 2. Tech. захвáт -а *m.*, зацíскáч -á *m.*, кля́м|ар -ра *m.* 3. цясьнíна *f.* (*у гарáх*), вýзкі ўвахóд у далíну

**jay** [dʒeɪ] n. 1. сóйка *f.* 2. Sl. прасьця́к -á *m.*, легкавéрны прасьцячóк. 3. лапатýн -á, пустамéл|я -і *m.*

**jaywalk** [ˈdʒeɪwɔ:k] v.i., Informal перахóдзіць вýліцу, парушáючы прáвілы рýху

**jaywalking** [ˈdʒeɪwɔ:kɪŋ] n., Informal нядбáйнае, няпрáвільнае перахóджаньне вýліцы

**jazz** [dʒæz] – n. джаз -у *m.*

– adj. джáзавы

– v.t. íграць джаз

**jealous** [ˈdʒeləs] adj.1. раўнíвы: ***to be jealous of one's wife*** быць раўнíвым за жóнку. 2. зайздрóсны, зайздрóсьлівы, які́ зайздрóсьціць: ***He is jealous of John's marks*** Ён зайздрóсьціць Янкавым адзнáкам. 3. пíльны, старáнны; руплíвы (*пра нагля́д*)

**jealousy** [ˈdʒeləsi] n., pl. **-ousies** 1. рэ́ўнасьць, зáвідзь *f.* 2. зáйздрасьць *f.*, зáвідкі *pl. only*

**jeep** [dʒi:p] n. джып -а *m.*

**jeer** [dʒɪr] – v.i. насьміхáцца; кпіць; зьдзéкавацца

– n. кпíны *pl. only,* насьмéшка *f.*; кóлкая, зьéдлівая заўвáга

**jeeringly** [ˈdʒɪrɪŋli] adv. зьдзéкліва, з насьмéшкай, з кпíнамі

**jellied** [ˈdʒelid] adj. застьі́лы (*як жэлé, квашанíна*)

**jelly** [ˈdʒeli] – n., pl. **-lies** жэлé, *n., indecl.* 2. квашанíна *f.*

– v.i. застывáць (*як квашанíна*)

– v.t. рабíць жэлé *абó* квашанíну

**jellyfish** [ˈdʒelifɪʃ] n., pl. **-fishes** or coll. **-fish** мэдуза *f.*

**jenny** [ˈdʒeni] n., pl. **-nies** 1. прадзільны станок. 2. лябёдка *f.* 3. жаночы род некаторых жывёлаў: ***jenny ass*** асьліца *f.*

**jeopardize** [ˈdʒepərdaɪz] v.t. ставіць пад небясьпеку; рызыкаваць: ***to jeopardize one's life*** рызыкаваць жыцьцём

**jeopardy** [ˈdʒepərdi] n. рызыка *f.*; небясьпека *f.*

**jerk** [dʒɜːrk] – n. 1. раптоўны штуршок *або* зрух зь месца. 2. сутаргавае паторгваньне мускула. 3. Sl. абмежаваны, недалёкі чалавек, дурань -ня *m.*
– v.t. 1. рэзка выхопваць. 2. рэзкім рухам паказваць на *што*, торгаць. 3. адрывіста гаварыць
– v.i. рухацца рэзкімі штуршкамі

**jerky** [ˈdʒɜːrki] adj. 1. адрывісты 2. сутаргавы, спазматычны. 3. з рыўкамі (*пра язду*), дрогкі (*пра воз*); з рэзкім пускам у ход *або* зрушэньнем зь месца

**jeroboam** [ˌdʒerəˈbouəm] n. бутля для віна

**jersey** [ˈdʒɜːrzi] n., pl. **-seys** 1. пуловэр -а *m.*, сьвэтар -ра, швэдар -ра *m.* 2. жаночая трыкатажная бялізна. 3. ваўняная, баваўняная або шаўковая вязаная тканіна, джэрсі *indecl.*

**Jersey** [ˈdʒɜːrzi] n., pl. **-seys** джэрзійская парода кароваў

**jest** [dʒest] – n. 1. жарт -у *m.* 2. пасьмех -у *m.*, насьміханьне, высьмейваньне *n.*, насьмешка *f.* 3. прадмет насьмешак, пасьмешышча *n.*: ***in jest*** жартам, непаважна, не ўсур'ёз
– v.i. 1. жартаваць, дасьціпнічаць. 2. паджартоўваць з *каго*
– v.t. высьмейваць, насьміхацца

**jester** [ˈdʒestər] n. 1. жартаўнік -а *m.* 2. прыдворны блазен -на, блазан -на, штукар -а, фігляр -а *m.*

**Jesuit** [ˈdʒeʒuət] n. езуіт -а *m.*

**Jesuitical** [ˌdʒeʒuˈɪtɪkəl] adj. езуіцкі

**jet I** [dʒet] – n. 1. моцны струмень (*вады, пары, газу*). 2. выпуск -а *m.*, гарлавіна *f.*; фарсунка *f.* 3. рэактыўны самалёт *або* рухавік
– adj. рэактыўны
– v.i. 1. біць, цячы струменем, струменіць. 2. лётаць рэактыўным самалётам

**jet II** [dʒet] – n. 1. Min. гагат -а *m.* (*род каменнага вугалю*). 2. бліскучы чорны колер
– adj. 1. гагатавы. 2. бліскучага чорнага колеру

**jetty I** [ˈdʒeti] n., pl. **-ties** 1. дамба *f.*, мол -а *m.* 2. прыстань *f.*

**jetty II** [ˈdʒeti] adj. чорны, як смоль

**Jew** [dʒuː] n. жыд -а, гэбрай, габрэй, яўрэй -я *m.*

**jewel** [ˈdʒuːəl] – n. 1. каштоўны камень; ювэлірны выраб. 2. каштоўнасьці *pl.* 3. скарб -у *m.* 4. камень (*у гадзіньніку*)
– v.t., Brit. **-l(l)-** аздабляць каштоўнымі камянямі

**jewel box** or **jewel case** шкатулка для біжутэрыі; скрынка на ювэлірныя вырабы

**jewel(l)er** [ˈdʒuːələr] n. ювэлір -а *m.*

**jewel(le)ry** [ˈdʒuːəlri] n. ювэлірныя вырабы coll., біжутэрыя *f.*

**Jewish** [ˈdʒuːɪʃ] adj. жыдоўскі, гэбрайскі, габрэйскі, яўрэйскі

**jib** [dʒɪb] v. **(-bb-)** наравіцца

**jibber** [ˈdʒɪbər] n. наравісты конь

**jilt** [dʒɪlt] – v.t. кідаць, пакідаць (*каханага*)
– n. какетка, спакусьніца *f.*

**jingle** [ˈdʒɪŋgəl] – n. 1. звон -у *m.* (*званочкаў*), бразганьне *n.* 2. кароткі вершык з алітэрацыяй, прыпеўка *f.* 3. крытая брычка
– v.i. зьвінець, бразгаць, пабразгваць: ***jingle bells*** званочкі, шалахтуны, бомы

**job** [dʒɑːb] – n. 1. работа *f.*, заданьне *n.* 2. праца *f.*; пасада, служба *f.*: ***out of job*** бяз працы
– adj. зьдзельны (*пра работу*); наняты для выкананьня пэўнае работы
– v.t. 1. перакупліваць, перакупляць (*тавары*) 2. браць *або* даваць у наймы (*каня, воз*)

– v.i. 1. працава́ць нерэгуля́рна *або́* зьдзе́льна. 2. быць ма́клерам
**jobber** [ˈdʒɑ:bər] n. 1. падзёншчык -а *m.* 2. перакупнік -а *m.*
**jobless** [ˈdʒɑ:bləs] adj. беспрацо́ўны
**jockey** [ˈdʒɑ:ki] – n., pl. **-eys** 1. жаке́й -я *m.* 2. Obsol. бадзя́г|а, валацу́г|а -і *m. & f.*, жабра́к -а́ *m.*
– v. 1. е́зьдзіць жаке́ем. 2. манэўрава́ць, лявірава́ць
**jocose** [dʒoʊˈkoʊs] adj. жартаўлі́вы, жартлі́вы; вясёлы, гульлі́вы; гумарысты́чны
**jocosity** [ˌdʒoʊˈkɑ:səti] n., pl. **-ties** жартаўлі́васьць, вясёласьць *f.*
**jocular** [ˈdʒɑ:kjələr] adj.1. заба́ўны, паце́шны. 2. жартаўлі́вы
**jocularity** [ˌdʒɑ:kjəˈlærəti] n., pl. **-ties** 1. жартаўлі́васьць, заба́ўнасьць *f.* 2. жа́рты *pl.*, паце́шныя заўва́гі
**jog I** [dʒɑ:g] – v.t. **(-gg-)** 1. лёгка штурхану́ць, папхну́ць. 2. прыпаміна́ць, нага́дваць. 3. трэ́сьці, падкіда́ць везучы́
– v.i. 1. трэ́сьціся, е́хаць падско́кваючы. 2. сто́млена цягну́цца, валачы́ся. 3. бе́гчы трушко́м
– n. 1. штуршо́к -ка́ *m.* 2. напамі́н -у *m.* 3. паво́льная хада́, паво́льны трушо́к
**jog II** [dʒɑ:g] n. вы́гін -у, вы́ступ -у *m.*, няро́ўнасьць *f.*
**jog trot** 1. трушо́к -ка́ *m.* 2. аднастайнасьць, руты́на *f.*
**jogtrot** [ˈdʒɑ:gtrɑ:t] v.i. **(-tt-)** бе́гчы трушко́м
**John** [dʒɑ:n] n. Ян, Іва́н -а *m.*: ***St. John's Eve*** Купа́льле *n.*
**john** [dʒɑ:n] n., Informal прыбіра́льня *f.*; выхо́д|ак -ку *m.*
**join** [dʒɔɪn] – v. 1. далуча́ц|ь (-ца). 2. злуча́ц|ь (-ца), спалуча́ц|ь (-ца): ***The brook joins the river*** Руча́й упада́е ў раку́. 3. запіса́цца, увайсьці́ (*у арганіза́цыю*): ***to join hands*** узя́цца за ру́кі. 4. межава́ць з *чым*
• ***join up*** залічы́цца (*у во́йска*)
– n. 1. ме́сца *або́* лі́нія злучэ́ньня; шво *n.* 2. далучэ́ньне, злучэ́ньне *n.*
**joiner** [ˈdʒɔɪnər] n. 1. той, хто далуча́ецца *або́* злуча́е. 2. сто́ляр -а *m.* (*мэ́бэльнік*)
**joining vowel** злуча́льны гало́сны
**joint** [dʒɔɪnt] – n.1. ме́сца злучэ́ньня. 2. суста́ў -ву *m.*, сучлянё́ньне *n.* 3. Bot. кале́нца на сьцябле́. 4. Informal кася́к -а́ *m.* (*цыга́рка з марыхуа́най*). 5. Informal ме́сца да сустрэ́чаў, забяга́лаўка
– v.t.1. спалуча́ць, сучлянЯ́ць (*суста́вам*). 2. падганя́ць; прыла́джваць (*дэта́лі*)
– adj. супо́льны, злу́чаны
**jointed** [ˈdʒɔɪntəd] adj. суста́ўчаты, кале́нчаты, члé́ністы
**jointly** [ˈdʒɔɪntli] adv. ра́зам; злу́чна, супо́льна
**joke** [dʒoʊk] – n. 1. жарт -у *m.* 2. анэкдо́т -у *m.*; пасьме́шышча *n.*: ***to crack a joke*** расказа́ць анэкдо́т; сказа́ць што-н. сьме́шнае; ***no joke*** бяз жа́ртаў
– v.i. жартава́ць
– v.t. паджарто́ўваць; дражні́ць, цьвялі́ць
**joker** [ˈdʒoʊkər] n. жартаўні́к -а́ *m.*, жартаўні́ца *f.*; джо́кер -а *m.* (*у ка́ртах*)
**jolly** [ˈdʒɑ:li] – adj. 1. вясёлы, ра́дасны. 2. esp. Brit., Informal прые́мны, мі́лы
– adv., Brit., Informal ве́льмі: ***and you jolly well know it*** і вы гэ́та ве́льмі до́бра ве́даеце
– v.t., Informal лісьлі́віць, хвалі́ць
– v.i. дабраду́шна паджарто́ўваць, пацьве́льваць з *каго́*, весялі́ць
**jolt** [dʒoʊlt] – v.t. трэ́сьці; падкіда́ць (*у во́зе*), устрэ́сваць
– v.i. трэ́сьціся (*на няро́ўнай даро́зе*)
– n. 1. рэ́зкі, мо́цны штуршо́к, страсе́ньне. 2. рапто́ўная неспадзе́ўка, цяжкі́ ўда́р; шок -у *m.*, устру́с -у *m.*
**jolty** [ˈdʒoʊlti] adj. дро́гкі, які́ трасе́ (*пра воз або́ даро́гу*)
**jostle** [ˈdʒɑ:səl] – v. шту́рхац|ь (-ца), піха́ц|ь (-ца); праціска́цца
– n. штуршо́к -ка́ *m.* 2. штурхані́на, ціскані́на, таўкатня́ *f.*
**journal** [ˈdʒɜ:rnəl] n.1. дзёньнік -а *m.*, журна́л -а *m.* 2. ча́сапіс, часо́піс -у *m.*, газэ́та *f.* 3. бухга́льтарскі журна́л

**journalism** [ˈdʒɜ:rnəˌlɪzəm] n. 1. журналíстыка *f.* 2. прафэ́сія журналíста

**journalist** [ˈdʒɜ:rnəlɪst], n. журналíст -а *m.*, журналíстка *f.*

**journalistic** [ˌdʒɜ:rnəˈlɪstɪk] adj. журналíсцкі, журналісты́чны

**journey** [ˈdʒɜ:rni] – n., pl. **-neys** падаро́жжа *n.*, пае́здка *f.*
– v.i. падаро́жнічаць

**jovial** [ˈdʒoʊviəl] adj. дабраду́шны, тавары́скі; вясёлы, прые́мны

**joviality** [ˌdʒoʊviˈæləti] n. весяло́сьць, тава́рыскасьць, дабраду́шнасьць *f.*

**jowl I** [dʒaʊl] n.1. ськíвіца *f.* 2. шчака́ *f.*

**jowl II** [dʒaʊl] n.1. падво́йны падбаро́дак, вальля́к -а *m.* 2.падгру́д|ак -ка *m.* (*у жывёліны*). 3. вальлё *n.*, вальля́к -á *m.* (*у пту́шак*)

**jowl III** [dʒaʊl] n. галава́ ры́бы

**joy** [dʒɔɪ] – n. ра́дасьць, прые́мнасьць, уце́ха *f.*
– v. це́шыц|ь (-ца), ра́даваць|ь (-ца)

**joyful** [ˈdʒɔɪfəl] adj. 1. задаво́лены, шчасьлíвы. 2. ра́дасны (*ве́стка, усьме́шка*)

**joyfully** [ˈdʒɔɪfəli] adv. ра́дасна

**joyous** [ˈdʒɔɪəs] adj. ра́дасны; задаво́лены; вясёлы

**jubilance** [ˈdʒu:bɪləns] n. ра́дасьць *f.*; вялíкая весяло́сьць; трыюмфава́ньне *n.*

**jubilant** [ˈdʒu:bɪlənt] adj. по́ўны ра́дасьці, трыю́мфу; перамо́жны

**jubilate** [ˈdʒu:bɪleɪt] v.i. ра́давацца; трыюмфава́ць

**jubilee** [ˈdʒu:bɪli:] n. 1. сьвя́та, сьвяткава́ньне *n.*, урачы́стасьць *f.* 2. юбілé|й -ю *m.*, уго́дкі: ***silver jubilee*** 25-ыя ўго́дкі; ***golden jubilee*** 50-ыя ўго́дкі

**judge** [dʒʌdʒ] – n. 1. судзьдз|я́ -í *m.* 2. арбíт|ар -ра *m.* 3. зна|ве́ц -ўца *m.*, зна́ўц|а -ы *m. & f.*: ***a good judge of cattle*** до́бры зна́ўца жывёлы; ***a poor judge of poetry*** слабы́ зна́ўца паэ́зіі
– v.t. 1. судзíць; вы́но́сіць прысу́д. 2. быць арбíтрам (*у вырашэ́ньні спрэ́чак ці ко́нкурсу*). 3. ацэ́ньваць; дава́ць ацэ́нку 4. ду́маць, лічы́ць; меркава́ць: ***Judge for yourself*** Мярку́йце са́мі. 5. судзíць, асуджа́ць, га́ніць

**judgment, judgement** [ˈdʒʌdʒmənt] n. 1. Law пастано́ва, прысу́д судзьдзí *або́* су́ду. 2. меркава́ньне *n.*, ду́мка *f.*, пагля́д, по́гляд -у *m.*: ***In my judgement you are wrong*** На маю́ ду́мку, вы памыля́ецеся. 3. развáжнасьць *f.*, здаро́вы ро́зум, уме́ньне разьбіра́цца, ацэ́ньваць. 4. кры́тыка *f.*, асуджэ́ньне *n.*

**The Last Judgment, Judgement Day** дзень стра́шнага су́ду, су́дны дзень

**judicial** [dʒuˈdɪʃəl] adj.1. судо́вы; судзе́йскі: ***judicial districts*** судо́выя акру́гі; ***judicial inquirer*** судо́вы сьле́дчы. 2. зако́нны, загада́ны *або́* дазво́лены судо́м. 3. бесстаро́ньні, справядлíвы

**judiciary** [dʒuˈdɪʃieri] n., pl. **-aries** 1. судо́вы лад. 2. су́дзьдзі кра́ю *ці* го́раду

**judicious** [dʒuˈdɪʃəs] adj. разва́жны, разва́жлівы; разу́мны

**jug I** [dʒʌg] n. збан, жбан -á *m.*, збан|о́к -ка́ *m.*

**jug II** [dʒʌg] – n. цёханьне *n.*
– v.i. цёхкаць (*пра салаўя́*)

**juggler** [ˈdʒʌglər] n. 1. жанглёр -а *m.*, жанглёрка *f.*; штука́р -á *m.* 2. шарлата́н -а, махля́р -á *m.*

**jugglery** [ˈdʒʌgləri] n., pl. **-gleries** 1. штука́рства, жанглёрства *n.* 2. хíтрыкі *pl. only*, махля́рства *n.*, падма́н -у *m.*, ашука́нства *n.*

**juice** [dʒu:s] n. 1. сок -у *m.* 2. су́тнасьць, дух чаго́-н. 3. Informal электры́чны ток

**juicy** [ˈdʒu:si] adj. 1. сакавíты, сакаўны́. 2. Informal по́ўны жыцьця́, жывы́; піка́нтны, не зусíм прысто́йны (*пра анэкдо́т*)

**July** [dʒuˈlaɪ] – n., pl. **-lies** лíпен|ь -я *m.*
– adj. лíпеньскі; ліпнёвы

**jumble** [ˈdʒʌmbəl] – v.t. 1. зьме́шваць, бязла́дна блы́таць. 2. трэ́сьці
– v.i. бязла́дна ру́хацца, валту́зіцца
– n.1. бязла́дная мешанíна, ку́ча *f.* 2. блытанíна *f.* 3. падкіда́ньне, трасе́ньне *n.*

**jumbo** [ˈdʒʌmboʊ] – n., pl. **-bos,** Informal не́шта нязвы́кла вялíкае

– adj. вéльмі вялíкі

**jump** [dʒʌmp] – v.i. 1. скакáць. 2. падскóкваць. 3. ускóчыць (*ад нечакáнасьці*). 4. браць (*шáшку ў гульні ў шáшкі*)

– n. 1. падскóк, скок -у *m.* 2. скачlóк -кá *m.*: ***the high jump*** скачóк у вышыню́; ***the broad jump*** скачóк у даўжыню́. 3. рэ́зкае павышэ́ньне, падскóк (*цэ́наў, тэмпэратýры*)

• ***jump a chapter*** прапусьцíць, вы́кінуць адзíн разьдзéл

• ***jump a stream*** пераскóчыць ручáй

• ***jump at*** хýтка, ахвóтна прыня́ць, ухапíцца за *што*

• ***jump down (off)*** саскóчыць

• ***jump in*** ускóчыць у *што*

• ***jump on*** а) ускóчыць на *што*. б) Sl. вінавáціць, гáніць; крытыкавáць

• ***jump out*** вы́скачыць

• ***jump to conclusions*** рабíць пасьпéшлівыя выснóвы

• ***on the jump,*** Informal заўсёды заня́ты, заўсёды ў рýху

**jumper I** [ˈdʒʌmpər] n. 1. скакýн -á *m.* (*спартóвец, конь*), скакýха *f.* 2. парашуты́ст -а *m.* 3. Electr. перамы́чка, злучáльны кáбель

**jumper II** [ˈdʒʌmpər] n. 1. жанóчы джэ́мпэр 2. рабóчая блю́за *абó* халáт

**jumpers** дзіця́чы камбінэзóнчык

**jumpy** [ˈdʒʌmpi] adj. 1. які́ рýхаецца падскóкамі. 2. нэрвóвы, палахлíвы; хýткі на хваляваньне

**junction** [ˈdʒʌŋkʃən] n. 1. перасячэ́ньне, скрыжавáньне *n.* 2. мéсца злучэ́ньня. 3. чыгýначны, дарóжны вýзел, вузлавáя чыгýначная стáнцыя

**June** [dʒu:n] – n. чэ́рвенlь -я *m.*

– adj. чэ́рвеньскі

**June bug** хрушч -á *m.*

**jungle** [ˈdʒʌŋgəl] – n. 1. джýнглі *pl. only.* 2. густы́ зáрасьнік, гушчáр, -ý *m.* 3. трушчóба *f.*: ***asphalt jungle*** асфáльтавыя трушчóбы

– adj. як джýнглі; дзíкі, нясвóйскі

**junior** [ˈdʒu:njər] – adj. 1. малóдшы (*вéкам, рáнгам, службóвым станóвішчам*): ***a junior partner*** малóдшы супóльнік, кампаньён. 2. для малады́х людзéй: ***junior sizes*** памéры (*вóпраткі*) для малады́х

– n. 1. малóдшlы -ага *m.*, малóдшая *f.* 2. вýчань 3-яе кля́сы сярэ́дняе шкóлы; студэ́нт 3-га (*перадапóшняга*) кýрсу. 4. Sport юніёр

**junior high school** малóдшыя (*перавáжна тры*) кля́сы сярэ́дняе шкóлы

**juniper** [ˈdʒu:nɪpər] – n. ялаlвéц -ўцá *m.*, ядлólвец -ўцу *m.*

– adj. ялаўцóвы, ядлаўцóвы

**junk** [dʒʌŋk] – n. 1. стары́ мэтáл, папéра, анýчы. 2. Informal адкíды *pl. only.*, хлам'ё *n.*, стары́зна *f.*, сьмяцьцё *n.* 3. Informal дрэнь, лухтá *f.* 4. Sl. наркóтык -у *m.* (*рэ́чыва*)

– v.t. 1. Informal выкідáць, адкідáць як непатрэ́бнае. 2. дзялíць на кавáлкі

**junky** [ˈdʒʌŋki] n. наркамáн -а *m.*, наркамáнка *f.*

**juridical** [dʒʊˈrɪdɪkəl] adj. 1. юрыды́чны. 2. легáльны, дазвóлены закóнам

**jurisdiction** [ˌdʒʊrɪsˈdɪkʃən] n. юрысды́кцыя *f.*

**jurisprudence** [ˌdʒʊrɪsˈpru:dəns] n. правазнáўства *n.*, юрыспрудэ́нцыя *f.*

**jurist** [ˈdʒʊrɪst] n. 1. юры́ст -а *m.*, юры́стка *f.* 2. студэ́нт *абó* вы́пускнік юрыды́чнага факультэ́ту

**juror** [ˈdʒʊrər] n. 1. прыся́жнlы́ -ага, прыся́глlы -ага *m.*, прысяжнáя, прыся́глая *f.* 2. ся́бра журы́. 3. чалавéк, які́ прысягнýў

**jury** [ˈdʒʊri] n., pl. **-ries** 1. прыся́жныя, прыся́глыя. 2. журы́ (*для прысуджэ́ньня ўзнагарóдаў*)

**jury box** лáва прыся́жных

**just** [dʒʌst] – adj.1. справядлíвы; прáвільны. 2. прáведны: ***a just life*** прáведнае жыцьцё. 3. заслýжаны, зарóблены; абгрунтавáны, слýшны: ***a just reward*** заслýжаная ўзнагарóда. 4. закóнны: ***a just claim*** закóннае дамагáньне. 5. даклáдны: ***a just scale*** даклáдная вагá

– adv. 1. дакла́дна, якра́з: ***just right*** якра́з до́бра, адпаве́дна. 2. то́лькі што: ***He has just gone*** Ён то́лькі што пайшо́ў. 3. ледзь: ***I just caught the train*** Я ледзь пасьпе́ў на цягні́к. 4. то́лькі; ***He is just an ordinary man*** Ён усяго́ то́лькі звыча́йны чалаве́к

• ***just about*** вось-вось, во-во

• ***just now*** а) якра́з цяпе́р. б) то́лькі што

**justice** [ˈdʒʌstɪs] n.1. справядлі́васьць, слу́шнасьць *f.* 2. правасу́дзьдзе *n.*, юсты́цыя *f.*: ***court of justice*** суд; ***bring a person to justice*** прыцягну́ць да судо́вае адка́знасьці. 3. судзьдз|я́ -í *m.*; судо́вая дзе́йнасьць дзяржа́вы, юсты́цыя *f.* 3. судьдз|я́ -í: ***justice of the peace*** міравы́ судзьдзя́

**justifiable** [ˌdʒʌstɪˈfaɪəbəl] adj. апраўда́ны; яко́га мо́жна апраўда́ць, які́ мо́жа быць апраўда́ны

**justification** [ˌdʒʌstɪfɪˈkeɪʃən] n. апраўда́ньне *n.*

**justify** [ˈdʒʌstɪfaɪ] v.t. 1. абгрунто́ўваць, матывава́ць (*учы́нак, прэтэ́нзію*). 2. апра́ўдваць. 3. Comput. выраўно́ўваць палі́ тэ́ксту

**justly** [ˈdʒʌstli] adv. 1. справядлі́ва. 2. пра́вільна, адпаве́дна, як нале́жыць

**jut** [dʒʌt] – v.i. выдава́цца, вытырка́цца; выступа́ць

– n. вы́ступ -у *m.* (*скалы́, бе́рагу*)

**jute** [dʒu:t] n., Bot. джут -у *m.* (*травяні́стая трапі́чная расьлі́на*)

**juvenile** [ˈdʒu:vənaɪl] – adj. малады́, юна́цкі, малале́тні: ***juvenile delinquent*** малале́тні злачы́нец, малале́тняя злачы́нка; ***juvenile books*** кні́гі для мо́ладзі

– n. юна́к -а́ *m.*, юна́чка *f.*, падле́т|ак -ка *m.*

• ***juvenile court*** суд для малале́тніх

# K

**K,k** [keɪ] n.,pl. **K's, k's** *адзінаццатая літара ангельскага альфабэту*

**Kaiser, kaiser** [ˈkaɪzər] – n. кáйзэр -а *m.*
– adj. кáйзэраўскі (*вóйска, улáда*)

**kaleidoscope** [kəˈlaɪdəskoʊp] n. 1. калейдаскóп -а *m.* 2. бесьперастáнная зьмéна зьяваў, падзéяў

**kangaroo** [ˌkæŋgəˈru:] n., pl. **-roos** or coll. **-roo** кенгурý, *indecl.*

**kaolin** [ˈkeɪəlɪn] n. каалíн -у *m.*

**kayak** [ˈkaɪæk] n. каяк -а *m.*, эскімóскі скураны́ чóвен

**Kazakh** [kəˈzɑ:k] n. 1. казáх -а *m.* 2. казáская мóва

**keel I** [ki:l] – n. кіль -я *m.* (*у днíшчы карабля́, лóдкі*)
– v.t. перакулíць
– v.i. перакулíцца
• ***keel over*** а) перакулíцца, перавярнýцца. б) Informal самлéць

**keel II** [ki:l] n. пласкадóннае суднó (*для перавóзкі вýгалю*)

**keen I** [ki:n] adj. 1. вóстры (*пра боль, дóсьціп*); рэ́зкі, пранíзьлівы (*вéцер*); вялíкі, мóцны: ***keen competition*** мóцная канкурэ́нцыя. 2. хýткі, пранíклівы (*рóзум, пóзірк*); наглядáльны, назíральны; тóнкі, вóстры (*пачуцьцё нюху*)
• ***a keen man of business*** энэргíчны, дзелавы́ чалавéк
• ***a keen sportsman*** заўзя́ты спартóвец
• ***be keen about ...*** мóцна любíць *што*, заўзя́та захапля́цца *чым*

**keen II** [ki:n] – n. плач, галашэ́ньне па нябóжчыку.
– v.i. галасíць

**keep** [ki:p] – v.t., **kept** 1. трымáць, затры́мваць: ***You may keep this book*** Вы мóжаце затрымáць гэ́тую кнíгу. 2. стры́мваць (*абяцáньне*), захóўваць (*таямнíцу*). 3. утры́мваць: ***to keep a farm*** вéсьці гаспадáрку: ***to keep a diary*** вéсьці дзённік; ***to keep a family, a pet*** утры́мваць сям'ю́, хáтнюю жывёліну (*сабáку, катá*)
– v.i. 1.захóўваць: ***to keep cool*** захóўваць спакóй, быць спакóйным; ***meat keeps well*** мя́са дóбра захóўваецца, не псуéцца. 2. трымáцца; стры́мвацца (*ад плáчу*)
• ***keep off the grass*** не хадзéце па травé
• ***keep on*** працягваць: ***keep on swimming*** плáвайце далéй
• ***keep out*** уваход забарóнены
• ***keep up*** а) падтры́мваць, не давáць (*упáсьці*). б) не адставáць (*у спабóрніцтве*)
– n. 1. éжа і дах над галавóю; утрымáньне *n.* 2. вéжа зáмка

**keeper** [ˈki:pər] n. 1. даглядчык, вартаўнíк -á, стóраж -а *m.* 2. апякýн апекунá *m.*, апякýнка *f.* 3. гаспадáр -á *m.*: ***the keeper of an inn*** гаспадáр, заéзнага дварá

**keeping** [ˈki:pɪŋ] n. 1. дагляд, догляд -у *m.* 2. сьвяткаваньне, спраўляньне *n.* 3. трыманьне, захоўваньне *n.*, затрыманьне (*для сябе*). 4. згоднасьць, адпаведнасьць *f.*: ***in keeping with*** у адпаведнасьці з *чым*

**keg** [keg] n. 1. малая бочачка. 2. адзінка вагі для цьвікоў

**kennel** [ˈkenəl] – n. 1. сабачая будка; сабакарня *f.*, сабачнік -а *m.* 2. зграя сабак

• ***kennels*** гадавальнік *або* памешканьне для сабак

– v.t. **(-ll-)** заганяць у сабакарню, трымаць у сабакарні

**kept** [kept] v., *p.t., p.p. ад* **keep**

**kerchief** [ˈkɜ:rtʃɪf] n. 1. хустка, хустачка *f.* (*на галаву*). 2. насоўка, насатка *f.*

**kernel** [ˈkɜ:rnəl] n. 1. ядро *n.* (*арэха*); зерне *n.*, зернетка, зярнятка *n.* (*жыта, пшаніцы*). 2. сярэдняя *або* найважнейшая частка; сутнасьць *f.*

**kerosene** or **kerosine** [ˈkerəsi:n] n. газа *f.* (*для лямпы*)

**kettle** [ˈketəl] n. 1. кацёл -тла *m.*, кацялок, гаршчок -ка *m.*; саган -а *m.* 2. чайнік -а *m.*

• ***kettle of fish,*** Informal клопаты, прыкрасьці

**kettledrum** [ˈketəldrʌm] n. літаўры; *sing.* літаўра *f.*

**key** [ki:] – n., pl. **keys** 1. ключ -а *m.* 2. разьвязь *f.*, разьвязка *f.* (*пытаньня, праблемы*) 3. клявіш -а *m.*, клявіша *f.* 3. Mus. ключ -а *m.*, танальнасьць *f.*

– adj. вельмі важны, ключавы: ***key industries*** вядучыя галіны прамысловасьці.

– v.t. 1. настройваць, наладжваць (*музычныя інструмэнты*). 2. замыкаць

**keyboard** [ˈki:bɔ:rd] n. клявіятура *f.* (*піяніна, друкавальнай машынкі, кампутара*)

**keyhole** [ˈki:hoʊl] n. замочная шчыліна

**keynote** [ˈki:noʊt] n. 1. галоўны тон (*гамы*). 2. галоўная думка, ідэя; вядучы прынцып: ***keynote speech*** асноўная прамова (*на канфэрэнцыі, зьезьдзе*)

**keystone** [ˈki:stoʊn] n. 1. наріжны камень. 2. а) аснова *f.*, найважнейшая частка чаго-н. б) істотны, галоўны прынцып

**key word** загалоўвачнае слова, ключавое слова

**khaki** [ˈkæki] n., pl. **-s** хакі, *indecl.* а) тканіна *або* форменнае адзеньне зялянковага колеру. б) шаравата-зялёны колер

**khakis** вайсковая ўніформа зелянковага колеру

**kick** [kɪk] – v. 1. даваць выспятка нагой; брыкацца. 2. аддаваць (*пра стрэльбу*). 3. Sport забіваць гол. 4. Informal пярэчыць; не згаджацца; супрацівіцца: ***to kick about (around)*** Informal а) валяцца, ляжаць не на месцы. б) абівацца бяз справы

– n. 1. удар нагою, брыканьне. 2. а) аддача *f.* (*стрэльбы*). б) раптоўны востры штуршок. 3. Informal пратэст -у *m.*: ***a kick against authority*** пратэст супроць начальства

• ***for kicks,*** Sl. для прыемнасьці, дзеля жарту

• ***kick out*** выкінуць, выгнаць

• ***kick the bucket*** Sl. памерці, сканаць

• ***kick the habit*** Informal пазбавіцца прывычкі

• ***kick up*** уздымаць (*пыл, скандал*)

• ***kick upstairs,*** Informal перавесьці на вышэйшую, але непажаданую пасаду

**kid I** [kɪd] – n. 1. казьляня *n.* 2. мяса *або* футра з казьляняці. 3. скура казьліная, лайка *f.* 4. Informal дзіця *n.*

– adj. 1. лайкавы. 2. Informal малодшы: ***kid brother*** малодшы брат

• ***kids*** лайкавыя пальчаткі *або* чаравікі

**kid II** [kɪd] v. дражніцца, жартаваць, дабрадушна падцьвельваць

**kiddy** [ˈkɪdi] n., pl. **-dies** 1. Informal дзіцятка *n.*, дзіцяня, дзіцянё *n.* 2. казьлянятка *n.*

**kid-glove** [ˌkɪdˈglʌv] adj. 1. у лайкавых пальчатках. 2. Informal далікатны,

асьцяро́жны: ***kid-glove politics*** асьцяро́жная палі́тыка
• ***kid gloves*** ла́йкавыя пальча́ткі
**kidnap** [ˈkɪdnæp] v.t. выкрада́ць (*дзіця́*); сі́лаю забіра́ць; хапа́ць
**kidnaper,** esp. Brit. **(-pp-)** [ˈkɪdnæpər] n. выкрада́льнік, вымага́льнік -а *m.*
**kidnaping** [ˈkɪdnæpɪŋ] n. выкрада́ньне *n.*
**kidney** [ˈkɪdni] n., pl. **-neys** ны́рка *f.*
**kidney bean** фасо́ля *f.*
**kill** [kɪl] – v.t. 1. забіва́ць; рэ́заць. 2. зьнішча́ць, ліквідава́ць: ***to kill a bill*** праваліць законапраект. 3. марнатра́віць: ***to kill time*** ба́віць час. 4. заглуша́ць (*мато́р*). 5. заглуша́ць, супако́йваць (*боль*)
– adj. забо́йчы, сьмяро́тны
**killer** [ˈkɪlər] n. забо́йц|а -ы *m. & f.*
**killing** [ˈkɪlɪŋ] – adj. 1. забо́йчы; зьнішча́льны; шко́дны. 2. Informal ве́льмі сьме́шны
– n. 1. забо́йства *n.*; зарэ́з -у *m.*, забо́|й -ю *m.* (*жывёлы*). 2. Informal вялі́кая фіна́нсавая ўда́ча
**kiln** [kɪln] n. печ для абпа́льваньня (*парцаля́ны*) *або́* для сушэ́ньня (*бярвёнаў*)
**kilogram(me)** [ˈkɪləgræm] n. кілягра́м -а *m.*
**kilometer**, Brit. **kilometre** [kəˈlɑ:mətər] n. кілямэ́т|ар -ра *m.*
**kilowatt** [ˈkɪləwɑ:t] n. кілява́т -а *m.*
**kin** [kɪn] – n. 1. род -у *m.*; сям'я́ *f.*, ро́дныя, *pl. of* ро́дн|ы -ага *m.*, ро́дная *f.* 2. ро́дныя, сваякі́ (*па крыві́ ці праз жані́мства*); радня́ *f.*
– adj. ро́дны, сваяцкі
**kind I** [kaɪnd] adj. 1. до́бры; ве́тлы, прыве́тны; спрыя́льны: ***kind words*** до́брыя, добразычлі́выя сло́вы; ***a kind and gentle heart*** спага́длівае й чу́лае сэ́рца. 2. ласка́вы: ***be so kind*** бу́дзь ласка́вы, калі́ ла́ска. 3. ува́жлівы, ува́жны, чу́лы, клапатлі́вы: ***a kind master*** клапатлі́вы гаспада́р
**kind II** [kaɪnd] n. 1. гату́н|ак - ку *m.*, род -у *m.* 2. паро́да *f.*
• ***in kind*** нату́рай: ***to make payments in kind*** плаці́ць нату́рай (*не грашмі́*)
• ***kind of***, Informal ама́ль, кры́шку; до́сыць, даво́лі: ***kind of dark*** даво́лі цёмна; ***kind of unfair*** крыху́ несправядлі́ва
**kindergarten** [ˈkɪndərˌgɑ:rtən] n. дзіця́чы садо́к
**kindhearted** [ˌkaɪndˈhɑ:rtəd] adj. до́бры, спага́длівы, чу́лы
**kindle** [ˈkɪndəl] – v.t. распа́льваць; разво́дзіць, раскла́даць (*аго́нь, во́гнішча*)
– v.i. 1. загара́цца. 2. запа́львацца, узбуджа́цца (*пра ахво́ту, дух*). 3. сьвяці́цца: ***Her eyes kindled with happiness*** Ейныя во́чы сьвяці́ліся шча́сьцем
**kindling** [ˈkɪndlɪŋ] n. распа́лка *f.*, распа́л -у *m.*
**kindly** [ˈkaɪndli] – adj. 1. прыя́зны; добразычлі́вы, прыхі́льны; ве́тлы: ***kindly faces*** прыя́зныя тва́ры; ***kindly criticism*** прыхі́льная кры́тыка. 2. прые́мны; мя́ккі, лаго́дны
– adv. 1. прыя́зна, добразычлі́ва. 2. ве́тліва; ве́тла: ***I thank you kindly*** шчы́ра дзя́кую вам
**kindness** [ˈkaɪndnəs] n. 1. ве́тласьць *f.*; дабрыня́, спага́длівасьць *f.* 2. добразычлі́васьць, прыхі́льнасьць *f.*: ***Thank you for your kindness*** Дзя́кую за ва́шую добразычлі́васьць. 3. паслу́га, ла́ска *f.*
**kinematics** [ˌkɪnɪˈmætɪks] n. кінэма́тыка *f.*
**kinetic** [kəˈnetɪk] adj. кінэты́чны: ***kinetic energy*** кінэты́чная энэ́ргія; ***kinetic theory*** кінэты́чная тэо́рыя
**kinetics** [kəˈnetɪks] adj. кінэ́тыка *f.*
**king** [kɪŋ] n. 1. каро́ль караля́ *m.* 2. ула-да́р -а́ *m.* 3. магна́т -а, каро́ль *m.*: ***a steel king*** каро́ль ста́лі. 4. каро́ль (*у ка́ртах, шахма́тах*)
**kingdom** [ˈkɪŋdəm] n. 1. каралеўства (*дзяржа́ва*). 2. дзе́йнасьць, ула́даньне, панава́ньне караля́
**kinsfolk** [ˈkɪnzfoʊk] n., pl. сям'я́ *f.*; сваякі́ *pl.*; ро́дныя *pl.*, радня́ *f.*
**kinship** [ˈkɪnʃɪp] n. 1. сяме́йнае сваяцтва *n.* 2. ро́днасьць, сваяцкасьць *f.* (*паво́длe пахо́джаньня*). 3. падабе́нства *n.*, блі́зкасьць *f.* (*паво́дле зьме́сту*)

**kinsman** [ˈkɪnzmən] n., pl. **-men** сваяк -á *m.*

**kinsmanship** [ˈkɪnzmənʃɪp] n. *гл.* **kinship**

**kinswoman** [ˈkɪnzˌwʊmən] n., pl. **-women** сваячка *f.*

**kipper** [ˈkɪpər] – v.t. саліць і сушыць рыбу
– n. 1. соленая вэнджаная рыба (*асабліва селядзец*). 2. ласось-самец у часе нерасту

**kiss** [kɪs] – v.t. цалаваць
– v.i. цалавацца
– n. пацалунlак -ка *m.*

**kit I** [kɪt] n. 1. амуніцыя, аснада *f.*, рыштунlак -ку *m.* (*жаўнера*). 2. багаж, сабраны для падарожжа. 3. а) камплект, набор прыладаў або інструмэнтаў. б) торбачка *або* скрынка для прыладаў. 4. драўлянае вядзерца

**kit II** [kɪt] v.t. кацяня *n.*

**kitchen** [ˈkɪtʃən] – n. кухня *f.*
– adj. кухонны

**kitchenware** [ˈkɪtʃənwer] n. кухонны посуд (*гаршкі, патэльні*)

**kite** [kaɪt] n. 1. паветраны зьмей (*цацка*): ***to fly a kite*** а) запускаць зьмея; б) Informal выпрабоўваць грамадзкую думку. 2. ястраб -а *m.*; коршак -а, каршак -á *m.*
• ***Go fly a kite*** Ідзі прэч; Не дуры галавы

**kitten** [ˈkɪtən] n.1.кацянё, кацяня *n.* 2. трусянё, трусяня *n.*

**knag** [næg] n. 1. нарасьць *f.*, сук -á *m.* (*на дрэве*). 2. крук -á *m.*, калlок -ка *m.;* вешалка *f.*

**knaggy** [ˈnægi] adj. сукаваты, вузлаваты; шурпаты, нябоўны

**knapsack** [ˈnæpsæk] n. заплечнік -а, ранlец -ца, рукзак -á *m.*

**knead** [ni:d] v.t. 1. мясіць (*цеста, гліну*). 2. разьмінаць, рабіць масаж

**knee** [ni:] – n. калена *n.*; каленка, каленца *n., dim.:* ***to bring to one's knees*** паставіць на калені (*прымусіць паддацца*)
– v.t. ударыць *або* дакрануцца каленам

**kneebend** [ˈni:bend] n. згінаньне каленяў, прысяданьне *n.*

**kneecap** [ˈni:kæp] n. 1. Anat. рэпка *f.* 2. накаленьнік -а *m.* (*таксама рыцарскі*)

**knee-deep** [ˌni:ˈdi:p] adj. па калена (*глыбокі*)

**knee-high** [ˌni:ˈhaɪ] adj. да калена (*высокі*)

**kneel** [ni:l] v., **knelt, kneeling** 1. ставаць на калені; кленчыць. 2. стаяць на каленях

**knell** [nel] – n. 1. хаўтурны звон. 2. жалобны гук. 3. дрэнная прымета, дрэнны знак
– v.i. 1. званіць на хаўтурах. 2. злавесна гучаць

**knickerbockers** [ˈnɪkərbɑ:kərz] or **knickers** [ˈnɪkərz] n., pl. брыджы *pl. only*

**knickknack** [ˈnɪknæk] n. цацка, забаўка *f.*; аздобныя дробязі

**knife** [naɪf] – n., pl. **knives** нож, нажа *m.*
– v. рэзаць, прабіваць, забіваць нажом

**knife edge** вастрыё *n.*, лязо нажа

**knife grinder** тачыльнік нажоў

**knight** [naɪt] n. 1. рыцар -а *m.* 2. шахматны конь

**knight-errant** вандроўны рыцар

**knighthood** [ˈnaɪthʊd] n. 1. рыцарства *n.* (*ранг або занятак*). 2. характар рыцара. 3. рыцары

**knit** [nɪt] – v.t. 1. вязаць, плесьці (*пруткамі*). 2. злучаць, змацоўваць
– v.i. злучацца, змацоўвацца, зрастацца
• ***knit the brows*** насупіцца

**knitting** [ˈnɪtɪŋ] n. 1. вязаньне, пляценьне *n.* 2. вязаная рэч

**knitting needle** вязальны пруток

**knives** [naɪvz] n., *pl. of* **knife**

**knob** [nɑ:b] n. 1. гуз -а *m.*; выпукласьць *f.* 2. круглая ручка (*дзьвярэй, шуфляды*). 3. узгорlак -ка *m.* 4. Sl. галава *f.*, мазгаўня *f.*

**knock** [nɑ:k] – v.t. 1. стукаць; ударыць; біць. 2. валіць, зьбіваць
– v.i. стукацца: ***to knock at a door*** стукаць у дзьверы

– n. 1. стук -у *m.* 2. Sl. вострая крытыка

• ***knock about (around)*** гайсаць; снўдацца

• ***knock down*** а) зьбіваць (*з ног*), валіць. б) разьбіраць рэч (*для перавозкі*)

• ***knock out*** а) выбіць. б) перамагчы. в) накаўтаваць

• ***knock together*** зьбіваць, рабіць сьпехам

**knoll** [noʊl] n. малы ўзгорак, узгорачlак -ка *m.*, пагорlак -ка *m.*

**knot** [nɑ:t] – n. 1. вўзlел -ла *m.* 2. бант -а *m.*, банцік -а *m., dim.* 3. сувязь *f.*: ***nuptual knot*** сужэнства. 4. нарасьць *f.* (*на дрэве*) 5. вўзlел -ла *m.* (*адзінка хуткасьці вадаплаваў*). 6. цяжкасьць, перашкода *f.*; замінка, загваздка *f.*

– v. 1. завязаваць вузлом. 2. зблытваць|ь (-ца), заблытац|ь (-ца) у вузлы. 3. завязваць, рабіць фрэндзлі

**knotty** [ˈnɑ:ti] adj. 1. вузлаваты. 2. заблытаны, складаны

**knout** [naʊt] n. бізун -а *m.*

**know** [noʊ] v., **knew, known,** v.t. 1. ведаць, знаць. 2. мець веды, умець. 3. быць знаёмым з *кім*: ***I know her very well*** Я зь ёю вельмі добра знаёмы; ***Do you know this road?*** Ці ты ведаеш гэтую дарогу? 4. умець: ***Mary knows how to cook*** Марыя ўмее гатаваць

**knowable** [ˈnoʊəbəl] – adj. пазнавальны, даступны пазнаньню

– n. пазнавальнае *n.*

**knowingly** [ˈnoʊɪŋli] adv. 1. умела, з уменьнем, па-майстэрску. 2. сьведама; наўмысна, знарок

**knowledge** [ˈnɑ:lɪdʒ] n. 1. веда *f.*; навука *f.*: ***a branch of knowledge*** галіна веды. 2. веданьне *n.*, паінфармаванасьць *f.*: ***It came to my knowledge*** Мне стала ведама; ***to (the best of) my knowledge*** наколькі мне ведама. 3. знаёмства, веданьне *n.*, вестка *f.*

**knowledgeable** [ˈnɑ:lɪdʒəbəl] adj. які ведае, паінфармаваны

**known** [noʊn] v., *p.p. of* **know** вядомы, ведамы: ***it is known*** вядома

**known quantity** Math. вядомае *n.*

**know-nothing** [ˈnoʊˌnʌθɪŋ] n. невук -а *m.* & *f.*; прастак -а *m.*, прастачка *f.*

**knuckle** [ˈnʌkəl] – n. 1. сустаlў -ва *m.* (*пальца*). 2. калена *або* лытка (*жывёліны, ужываныя, як мяса*)

– v.i. стукаць пальцам, стукацца: ***to knuckle down (under),*** Informal паддацца, саступіць *каму*

**kohlrabi** [ˌkoʊlˈrɑ:bi] n., pl. **-bies,** Bot. кальрабі *f., indecl.*

**Korean** [kəˈri:ən] – adj. карэйскі

– n. 1. карэlец -йца *m.*, карэйка *f.* 2. карэйская мова

**Kremlin** [ˈkremlɪn] n. Крэмль Крамля *m.*

**Ku-Klux-Klan** [ˌku:klʌksˈklæn] n. Ку-Клукс-Клан

**kumquat** [ˈkʌmkwɑ:t] n. камквот -а *m.* (*малы як сьліўка плод, падобны да апэльсіна*)

**Kyrgyz** [kɪrˈgi:z] n., pl. **-ghiz** or **-ghizes** 1. кіргіз -а *m.* 2. кіргіская мова

# L

**L, l** [el] n.,pl. **L's** or **Ls, l's** or **ls** *дванáццатая лíтара ангéльскага альфабэ́ту*
**label** [ˈleɪbəl] – n. налéпка, наклéйка, этыкéтка *f.*; ярлы́к -á *m.*
– v.t. наклéйваць налéпкі, рабíць нáдпісы. 2. Figur. навéшваць ярлыкí
**labial** [ˈleɪbiəl] – adj. губны́
– n., Gram. губны́ зы́чны
**labor**, Brit. **labour** [ˈleɪbər] – n. 1. прáца *f.*: ***hard labor*** кáтарга *f.* 2. coll. працóўныя. 3. рóдавыя бóлі
– v.i. ця́жка працавáць, сíліцца
**laboratory** [ˈlæbərətɔ:ri] – n., pl. **-ries** лябаратóрыя *f.*
– adj. лябаратóрны
**Labor Day** Дзень прáцы (*сьвя́та*)
**laborer**, Brit. **labourer** [ˈleɪbərər] n. 1. рабóчы -ага *m.*, рабóчая *f.* 2. чорнарабóчы -ага *m.*
**laborious** [ləˈbɔ:riəs] adj. 1. цяжкí. 2. працавíты, карпатлíвы
**labor market** ры́нак прáцы; пóпыт прáцы
**labor union** прафсаю́з
**labyrinth** [ˈlæbərɪnθ] n. 1. лябíры́нт -а *m.* 2. заблы́танае станóвішча
**lace** [leɪs] – n. 1. карýнкі *pl. only.* 2. шнурóк, матузóк -кá *m.*: ***shoelaces*** матузкí для чаравíкаў. 3. галýн -á *m.*: ***Some uniforms have laces on them*** Некатóрыя ўнiфóрмы мáюць галуны́
– v.t. 1. абшывáць карýнкамі. 2. шнуравáць. 3. прыбірáць галунáмі, нашывáць галуны́
**lacerate** [ˈlæsəreɪt] v.t. парэ́заць, парáніць
**lachrymal,** *тс.* **lacrimal** [ˈlækrɪməl] adj. 1. сьлёзны: ***lachrimal glands*** сьлёзныя залóзы. 2. для сьлёзаў
**lack** [læk] – v. адчувáць нястáчу; ня мець; не ставáць; мець патрэ́бу: ***He lacks courage*** Ямý не стаé адвáгі; ***A desert lacks water*** У пусты́ні нямá вады́
– n. нястáча *f.*, недахóп -у *m.*, адсýтнасьць *f.*
• ***for lack of*** а) дзéля недахóпу *чагó* б) дзеля адсýтнасьці *чагó*
**lacking** [ˈlækɪŋ] adj. якóму не стаé: ***A weak person is lacking in strength*** У слабóга чалавéка не стаé сілаў
**lackluster** [ˈlækˌlʌstər] adj. мáтавы, бяз глянцу, бяз бля́ску
**laconic** [ləˈkɑ:nɪk] adj. сьцíслы, маласлóўны, ляканíчны
**lacquer** or **lacker** [ˈlækər] – n. ляк -у *m.*
– v.t. 1. пакрывáць ля́кам. 2. Sl. прыхарóшваць, прыглáджваць
**lactose** [ˈlæktoʊs] n. малóчны цýкар, ляктóза *f.*
**lacuna** [ləˈkju:nə] n. 1. лякýна *f.*, прагáл -у *m.* 2. пустóе мéсца
**lad** [læd] n. хлапéц -цá *m.*, юнáк -á *m.*, дзяцю́к дзецюкá *m.*
**ladder** [ˈlædər] n. драбíна, лéсьвіца *f.*
**lade** [leɪd] v., **laded, laden** 1. грузíць; нагружáць. 2. вычэ́рпваць апалóнікам

**laden** [ˈleɪdən] adj. 1. нагру́жаны. 2. абцяжа́раны

**ladle** [ˈleɪdəl] – n. апало́нік -а *m.*, чарпа́к -а́ *m.*
– v.t. 1. вычэ́рпваць апало́нікам. 2. разьліва́ць апало́нікам

**lady** [ˈleɪdi] – n., pl. **-dies** 1. да́ма *f.*: ***a great lady*** зна́тная да́ма. 2. спада́рыня *f.*: ***ladies and gentlemen*** спада́рыні й спадары́. 3. гаспады́ня *f.* (*до́му*). 4. каха́ная *f.*; жо́нка *f.*
– adj. жано́чы, жано́чага ро́ду: ***a lady doctor*** жанчы́на-до́ктар

**ladybug** [ˈleɪdibʌg] or **lady beetle**, n. бо́жая каро́ўка

**lady-killer** [ˈleɪdiˌkɪlər] n., Sl. сэрцае́д -а *m.*

**ladylike** [ˈleɪdilaɪk] adj. 1. як да́ма, до́бра вы́хаваная. 2. до́брая, далікáтная. 3. жанчынападо́бны (*пра мужчы́ну*)

**lag** [læg] – v.i. 1. адстава́ць; паво́льна цягну́цца. 2. паслабля́цца: ***our attention lagged*** на́шая ўва́га паслабля́лася
– n. апазьне́ньне, адстава́ньне *n.*: ***jet lag*** парушэ́ньне су́тачнага ры́тму; сто́ма ад до́ўгага падаро́жжа самалётам; недапасава́насьць арганíзму да мясцо́вага ча́су

**lagoon** or **lagune** [ləˈgu:n] n. лягу́на *f.*

**laid** [leɪd] v., *past & p.p. of* **lay I**

**lain** [leɪn] v., *p.p. of* **lie II**

**lair** [ler] – n. 1. бярло́г-у *m.*, ло́гава, ло́гвішча *n.* (*зьве́ра*). 2. ло́гава, прыту́лішча *n.* (*чалаве́ка*). 3. Brit. шала́ш -а́ *m.*, за́гарадзь *f.* (*для жывёлы*)
– v.i. спаць, ляжа́ць у ло́гаве

**lake** [leɪk] – n. во́зера *n.*
– adj. азёрны

**lakelet** [ˈleɪklɪt] n. мало́е во́зера, азе́рца *n.*

**lamb** [læm] – n. 1. ягнлё *n., pl.* -я́ты; ягня́тка *n.* 2. бара́ніна *f.* (*мя́са*)
– v.i. акаці́цца (*пра аве́чку*)

**lame** [leɪm] – adj. 1. кульга́вы. 2. зьнявéчаны. 3. Figur. слабы́, нездавальня́ючы, недастатко́вы: ***a lame excuse*** няўда́лая адгаво́рка
– v.t. рабі́ць кульга́вым, няве́чыць
– v.i. закульга́ць; зрабі́цца кульга́вым

**lament** [ləˈment] – v.t. апла́кваць; шкадава́ць
– v.i. 1. галасі́ць, мо́цна пла́каць. 2. жальбава́ць, лямантава́ць
– n. 1. галашэ́ньне *n.*, ля́мант -у *m.* 2. эле́гія *f.*, жало́бная пе́сьня

**lamentable** [ləˈmentəbəl] adj. ва́рты жа́лю; няшча́сны, жалюго́дны

**lamentation** [ˌlæmənˈteɪʃən] n. плач -у *m.*, гаро́тная жа́льба; нарака́ньні
• Bibl. ***Lamentations*** плач Ерамíі

**lamp** [læmp] n. 1. ля́мпа *f.*; ліхта́р -а́ *m.* 2. Figur. сьвяці́ла *n.*

**lamp-post** [ˈlæmppoust] n. ліхта́рны слуп

**lamplight** [ˈlæmplaɪt] n. 1. ля́мпавае сьвятло́. 2. вечаро́вая пара́

**lampoon** [læmˈpu:n] – n. зло́сная саты́ра, па́сквілль -я *m.*; памфле́т -а *m.*
– v.t. напада́ць, высьме́йваць

**lamp shade** абажу́р -а *m.*

**lance** [læns] – n. 1. дзі́да *f.*, кап'ё *n.* 2. лянцэ́т -а *m.* (*хірургі́чны*)
– v.t. 1. прабіва́ць дзі́дай. 2. разраза́ць лянцэ́там

**lancer** [ˈlænsər] n. ула́н -а *m.*

**lancet** [ˈlænsət] n. лянцэ́т -а *m.*

**land** [lænd] – n. 1. сухазе́м'е *n.*, су́ша *f.* 2. гле́ба, зямля́ *f.*: ***good land for a garden*** до́брая зямля́ дла гаро́ду. 3. зяме́льная ўла́снасьць, маёнтак -ка *m.* 4. край -ю *m.*, краі́на *f.*; раён -у *m.*: ***the land of Belarus*** белару́скі край; ***mountainous land*** го́рны раён
– v.t. 1. выса́джваць (*на бе́раг*). 2. прызямля́ць
– v.i. 1. прыстава́ць, прыча́льваць. 2. выса́джвацца. 3. апына́цца, прыбыва́ць: ***He landed in jail*** Ён апыну́ўся ў астро́зе
• ***lands*** тэрытарыя́льныя ўлада́ньні.

**landed** [ˈlændɪd] adj. 1. зяме́льны. 2. які́ ма́е зямлю́, вало́дае зямлёю

**landfill** [ˈlændfɪl] n. зва́лка *f.*

**landing** [ˈlændɪŋ] n. 1. а) вы́садка *f.* б) паса́дка *f.* 2. ме́сца вы́садкі *або́* паса́дкі. 3. пляцо́ўка на схо́дах

**landlady** [ˈlændleɪdi] n., pl. **-dies** ула́дальніца, ула́сьніца до́му *або́* зямлі́; гаспады́ня кватэ́ры

**landlord** [ˈlændlɔ:rd] n. ула́сьнік, улада́льнік до́му *або́* зямлí; гаспада́р кватэ́ры

**landmark** [ˈlændmɑ:rk] n. 1. ме́жавы ка́мень, вяха́ *f.* 2. арыенцíр -а *m.* 3. Figur. ве́хі *pl.*, ва́жны эта́п. 4. по́мнік архітэкту́ры

**land mass** or **landmass** мацяры́к -á *m.*

**landowner** [ˈlændˌoʊnər] n. земляўла́сьнік, земляўлада́льнік -а *m.*; земляўла́сьніца, земляўлада́льніца *f.*

**landscape** [ˈlændskeɪp] n. 1. краяві́д, пэйза́ж -у *m.* 2. малю́нак краяві́ду. 3. ляндша́фт -у *m.*

**landslide** [ˈlændslaɪd] n. 1. апо́ўлзень -зьня *m.* 2. Figur. вялі́кая перамо́га (*у вы́барах*). 3. падзе́я вялі́зных паме́раў: ***landslide inflation*** абва́льная інфля́цыя

**lane** [leɪn] n. 1. заву́лłак -ка *m.* 2. ву́зкая даро́га, сьце́жка. 3. паласа́ ру́ху (*на аўтастра́дзе*): ***Left lane for left turn only*** Ле́вая паласа́ то́лькі для паваро́ту нале́ва

**language** [ˈlæŋgwɪdʒ] n. 1. мо́ва *f.* 2. стыл|ь -ю *m.*

**languid** [ˈlæŋgwɪd] adj. 1. кво́лы, вя́лы, мля́вы: ***languid attempts*** слабы́я спро́бы. 2. абыя́кавы, апаты́чны

**languish** [ˈlæŋgwɪʃ] – v.i. 1. слабе́ць, млець; вя́нуць. 2. со́хнуць, чэ́знуць; марне́ць. 3. тужы́ць: ***She languished for home*** Яна́ тужы́ла па до́ме

**languor** [ˈlæŋgər] n. 1. сла́басьць, зьнямо́га *f.* 2. мля́вы вы́гляд *або́* по́зірк

**lank** [læŋk] adj. 1. высо́кі і то́нкі; шчу́плы; хударля́вы. 2. про́сты, не кучара́вы (*пра валасы́*)

**lanky** [ˈlæŋki] adj. цыба́ты

**lantern** [ˈlæntərn] n. 1. ліхта́р -á *m.* 2. ве́рхняя ча́стка маяка́

**lap I** [læp] n. 1. прыпо́л -у *m.*, пала́ *f.* 2. кале́ні *pl.*, уло́ньне *n.*: ***The boy sat on his mother's lap*** Хло́пчык сядзе́ў у ма́ці на кале́нях. 3. ло́на, уло́ньне *n.*: ***in nature's lap*** на ўло́ньні прыро́ды

• ***in the lap of fortune*** мець по́ўную ўда́чу

• ***in the lap of luxury*** у раско́шы

**lap II** [læp] v.t. 1. перакрыва́ць, пакрыва́ць на́нава. 2. аху́тваць, ахіна́ць. 3. заго́ртваць, закру́чваць

**lap III** [læp] v. 1. хлябта́ць: ***cat laps up milk*** кот хле́бча малако́. 2. пы́рскаць, хлю́паць. 3. плёскацца, пля́скацца

**lap IV** [læp] – n., Sport 1. ко́ла *m.* (*вако́л стадыё́ну*). 2. забе́г -у *m.* 3. адці́н|ак -ка *m.*: ***the last lap of the hike was the toughest*** апо́шні адці́нак пахо́ду быў найцяжэ́йшы

**lapel** [ləˈpel] n. ля́цкан, адваро́т -а *m.* (*пінжака́*)

**lapidify** [ləˈpɪdɪfaɪ] **-fied, -fying** – v.t. ператвара́ць у ка́мень

– v.i. камяне́ць

**lapis lazuli** [ˌlæpɪs ˈlæzəli:] лязуры́т -у *m.* (*мінэра́л*)

**lapse** [læps] – n. 1. мала́я памы́лка, недагля́д -у *m.*; апі́ска *f.*; абмо́ўка, агаво́рка *f.*; ля́псус -у: ***Lapse of memory*** прага́л у па́мяці. 2. заняпа́д -у *m.* (*мара́льны*). 3. міна́ньне, праміна́ньне *n.* (*ча́су*)

– v.i. 1. рабі́ць малу́ю памы́лку. 2. занепада́ць, упада́ць: ***to lapse into silence*** змо́ўкнуць; ***The boy's interest soon lapsed*** Зацікаўле́ньне хлапца́ ху́тка згасла

**laptop** [ˈlæptɑ:p] n. партаты́ўны кампу́тар, лэпто́п -а *m.*

**larch** [lɑ:rtʃ] n. лісто́ўніца, мадры́на *f.* (*хваёвае дрэ́ва*)

**lard** [lɑ:rd] – n. са́ла *n.*, шма́|лец -льцу *m.*

– v.t. 1. а) шпігава́ць кава́лкамі са́ла. б) ма́заць тлу́шчам. 2. Figur. аздабля́ць, перасыпа́ць (*мо́ву*): ***The speaker larded his speech with jokes*** Прамо́ўца перасыпа́ў сваю́ прамо́ву жа́ртамі

**large** [lɑ:rdʒ] adj. **larger, largest** 1. вялі́кі. 2. буйны́: ***a large enterprise*** буйно́е прадпрые́мства. 3. шматлі́кі, зна́чны

• ***at large*** а) на во́лі, во́льны (*пра злачы́нца*). б) шыро́ка, падрабя́зна. в) уво́гуле; у цэ́лым

**largely** [ˈlɑ:rdʒli] adv. 1. шмат. 2. галóўна, пераважна, у знáчнай ступéні

**large-scale** [ˌlɑ:rdʒˈskeɪl] adj. вялíкі, буйны́, з размáхам, буйнамаштáбны: ***large-scale agriculture industry*** буйнáя сéльская гаспадáрка

**largesse** [lɑ:rˈdʒes] n. шчóдрасьць *f.*; велікадýшнасьць *f.*

**lark** [lɑ:rk] n. жаўрýк -á, жáваранlак, жáўранlак -ка *m.*

**larva** [ˈlɑ:rvə] n., pl. **-vae** лічы́нка *f.*: ***A tadpole is the larva of a frog*** Апалóнік — лічы́нка жáбы

**laryngal** [ləˈrɪŋgəl] – adj., Phon. гартáнны
– n. гартáнны гук

**laryngeal** [ləˈrɪŋdʒəl] adj. гартáнны, у гартáні (*пра мýскул, нэ́рв*)

**larynx** [ˈlærɪŋks] n., pl. **larynxes** or **larynges** [læˈrɪŋdʒi:z] гартáнь *f.*

**lascivious** [ləˈsɪviəs] adj. 1. пачуцьцёвы, юрлíвы. 2. разбэ́шчаны, распýсны. 3. які́ ўзбуджáе, распáльвае юрлíвасьць

**laser** [ˈleɪzər] n. лáзэр -а *m.*: ***laser beam*** лáзэрны прамéнь

**lash I** [læʃ] – n. 1. пýга *f.*, бізýн -á *m.* 2. удáр пýгай, бізунóм. 3. вéя, вéйка *f.*
– v. 1. сьцябáць, хвастáць (*пýгаю*). 2. махáць, біць (*хвастóм*). 3. Figur. нападáць, высьмéйваць
• ***lash out*** кíдацца, атакавáць

**lash II** [læʃ] v.t. зьвя́зваць вяро́ўкай, шнуркóм

**last I** [læst] – adj. 1. а) апóшні. б) найніжэ́йшы: ***next to the last*** перадапóшні; ***last in importance*** найніжэ́йшы павóдле вáжнасьці. 2. мінýлы: ***last Monday*** мінýлы панядзéлак; ***last year*** лéтась. 3. наймéнш праўдападóбны
– adv. на канцы́
• ***at last*** нарэ́шце

**last II** [læst] – v.i. 1. цягнýцца, зацягвацца; трывáць: ***The storm lasted three days*** Навальнíца цягнýлася тры дні. 2. трымáцца, трывáць. 3. быць дастаткóвым, хапáць: ***Our money must last two weeks*** Нáшых грóшай павíнна хапíць на два ты́дні
– n. вы́трымка, трывáласьць *f.*
• ***last out*** вы́жыць, вы́трываць

**last III** [læst] n. капы́л -á *m.* (*шавéцкі*)

**lasting** [ˈlæstɪŋ] – adj. 1. прáця́глы, дóўгі. 2. заўсёдны. 3. трывáлы
– n. трывáньне *n.*

**lastly** [ˈlæstli] adv. нарэ́шце, урэ́шце

**latch** [lætʃ] – n. зáсаўка, завáла, штáба *f.*
– v. зачыня́ць на зáсаўку
• ***on the latch*** на зáсаўцы

**late** [leɪt] – adj. 1. пóзны, пóзьні, прыпóзьнены, запóзьнены: ***a late dinner*** пóзны абéд; ***He was late*** Ён спазьнíўся. 2. мінýлы, нядáўны. 3. памéрлы, нябóжчык: ***The late Mr. Brown was a good man*** Нябóжчык Браўн быў дóбрым чалавéкам
– adv. 1. пóзна. 2. нядáўна, кагадзэ́
• ***late in life*** у старэ́йшым вéку
• ***of late*** апóшнім чáсам; нядáўна

**lately** [ˈleɪtlɪ] adv. 1. нядáўна, надóечы, кагадзэ́. 2. апóшнім чáсам

**latent** [ˈleɪtənt] adj. прыхавáны, скры́ты, утóены; Med. лятэ́нтны, схавáны, неразьвíты (*пэры́яд хварóбы*)

**later** [ˈleɪtər] – adj. *the compar. of* **late** пазьнéйшы
– adv. пасьля́, пазьнéй
• ***later on*** пóтым, заты́м

**lateral** [ˈlætərəl] – adj. 1. бакавы́, пабóчны: ***the river and its lateral streams*** ракá і éйныя бакавы́я прытóкі
– n. бакавáя чáстка, галíна

**laterally** [ˈlætərəli] adv. 1. у бок, збóку, бóкам. 2. пабóчна

**latest** [ˈleɪtɪst] adj. *the superl. of* **late** найпазьнéйшы
• ***at the latest*** найпазьнéй; не пазьнéй, як
• ***the latest***, Informal найбóльш сучáснае, найнавéйшы стыль, фасóн, мадэ́ль

**latex** [ˈleɪteks] n. каўчýк, ля́тэкс -у *m.*: ***latex rubber*** каўчýкавая гýма

**lath** [læθ] – n., pl. **laths** 1. дрáнка, дранíца *f.* 2. сéтка *f.* (*для тынкавáньня*)
– v.t. клáсьці, прыбівáць дрáнку

**lathe** [leɪð] n. такáрны варштáт

**lather** [ˈlæðər] – n. пéна *f.*
– v.t. мы́ліць, намы́льваць
– v.i. пакрывáцца пéнай

**Latin** [ˈlætən] – n. лацíнская мóва, лацíна *f.*
– adj. 1. лацíнскі: ***Latin peoples*** рамáнскія нарóды. 2. ры́ма-каталíцкі. 3. лацíнаамэрыкáнскі

**Latin-American** adj. лацíнаамэрыкáнскі

**Latin American** n. лацінаамэрыкáн|ец -ца *m.*

**latitude** [ˈlætətu:d] n. 1. Geogr., Astron. шыратá *f.* 2. Figur. свабóда дзéяньня, паўнамóцтва *n.*

**lattice** [ˈlætəs] – n. 1. сéтка *f.*, крáты, крáткі *pl.*, пераплёт -у *m.* 2. Chem. крышталíчная рашóтка
– v.t. пастáвіць сéтку, закры́ць сéткай

**Latvian** [ˈlætviən] – adj. латы́скі, латвíйскі
– n. 1. латы́ш -á *m.*, латы́шка *f.* 2. латы́ская мóва

**laud** [lɔ:d] – v.t. усхваляць, расхвáльваць; праслаўляць
– n. 1. хвалá, пахвалá *f.* 2. пахвáльны гімн

**laudable** [ˈlɔ:dəbəl] adj. пахвáльны

**laugh** [læf] v.i. сьмяя́цца
• ***have the last laugh*** быць тым, хто сьмяéцца апóшнім
• ***laugh at*** сьмяя́цца, насьміхáцца з *кагó*
• ***laugh off (away)*** аджартавáцца, збыць сьмéхам

**laughable** [ˈlæfəbəl] adj. сьмéшны, сьмяхóтны; забáўны, камíчны

**laughingstock** [ˈlæfɪŋstɑ:k] n. пасьмéшышча *n.*

**laughter** [ˈlæftər] n. сьмех, рóгат -у *m.*

**launch I** [lɔ:ntʃ] – v.t. 1. спушчáць, спускáць, спускáць (*чóвен*) на вадý. 2. пускáць, запускáць: ***to launch a torpedo*** вы́пусьціць тарпэ́ду; ***to launch a rocket*** запусьцíць ракéту. 3. пачынáць; разгóртваць, пускáць у рух: ***to launch a new enterprise*** распачáць нóвае прадпрыéмства. 4. кідáць; пускáць, выпускáць: ***to launch threats against someone*** кідáць нéкаму пагрóзы
– v.i. выпраўля́цца, накірóўвацца куды́-н.
– n. зáпуск, пуск -у *m.*
• ***launch out*** пачáць, распачáць; рýшыць (*у дарóгу*)

**launch II** [lɔ:ntʃ] n. баркáс -а *m.*

**launching site** пускавáя пляцóўка, плятфóрма

**launder** [ˈlɔ:ndər] – v.t. мыць і прасавáць (*бялíзну, вóпратку*)
– v.i. мы́цца: ***it launders well*** гэ́та дóбра мы́ецца

**laundress** [ˈlɔ:ndrɪs] n. прáчка *f.*

**laundromat** [ˈlɔ:ndrəmæt] n. публíчная прáльня

**laundry** [ˈlɔ:ndri] n., pl. **-dries** 1. прáльня *f.* 2. бялíзна для мыцьця́. 3. мыцьцё й прасавáньне

**laundryman** [ˈlɔ:ndrimən] n., pl. **-men** рабóтнік у прáльні

**laureate** [ˈlɔ:riət] – n. ляўрэáт -а *m.*
– adj. 1. адзнáчаны. 2. ляўрóвы (*пра вянóк*)

**laurel** [ˈlɔ:rəl] – n. ляўр -а і -у *m.*
– v.t. 1. аздóбіць ляўрóвымі лістáмі *ці* вянкóм. 2. віць вянóк з ля́ўру
• ***laurels*** ля́ўры, а) гóнар; слáва. б) перамóга
• ***rest on one's laurels*** спачы́ць на ля́ўрах

**laureled** or **laurelled** [ˈlɔ:rəld] adj. укаранавáны ляўрóвым вянкóм, узнагарóджаны

**lava** [ˈlɑ:və] n. ля́ва *f.*

**lavatory** [ˈlævətɔ:ri] n., pl. **-ries** 1. туалéт -у *m.* 2. прыбірáльня *f.*

**lavender** [ˈlævəndər] – n. лявáнда *f.*
– adj. сьвéтла-фіялéтавы

**lavish** [ˈlævɪʃ] – adj. 1. шчóдры: ***lavish of money*** той, хто шчóдра раздаé грóшы. 2. раскóшны; багáты, які́ шмат каштýе, дарагí: ***lavish gifts*** дарагíя падарýнкі
– v.t. шчóдра раздавáць; раскідáцца

**lavishly** [ˈlævɪʃli] adv. 1. раскóшна, шчóдра. 2. марнатрáўна, неашчáдна

**law** [lɔ:] n. 1. закóн -у *m.*, прáва *n.*: ***civil law*** цывíльнае прáва. 2. прáвіла: ***traffic laws*** прáвілы рýху. 3. юрыспрудэ́нцыя *f.*, правазнáўства *n.*: ***to study law*** вывучáць правазнáўства, прáва
• ***commercial law*** гандлёвае прáва
• ***criminal law*** крымінáльнае прáва
• ***go to law*** падавáць у суд
• ***law and order*** законапарáдак, правапарáдак
• ***lay down the law*** Figur. а) даць загáд. б) даць нагáну
• ***read law*** вывучáць прáва, каб стáцца юры́стам
• ***take the law in one's own hands*** распрáвіцца самавóльна; узя́ць закóн у свае́ рýкі
• ***the law of gravitation*** закóн гравітáцыі

**law-abiding** [ˈlɔ:əˌbaɪdɪŋ] adj. закóнапаслухмя́ны

**law-breaker** [ˈlɔ:ˌbreɪkər] n. правапарушáльнік -а, злачы́н|ец -ца *m.*

**law court** суд -ý *m.*

**lawful** [ˈlɔ:fəl] adj. 1. закóнны. 2. справядлíвы, абгрунтавáны: ***lawful demands*** справядлíвыя дамагáньні

**lawfully** [ˈlɔ:fəli] adv. 1. закóнна. 2. справядлíва, павóдле закóну, згóдна з закóнам

**lawless** [ˈlɔ:ləs] adj. 1. беззакóнны; незакóнны. 2. нястры́мны, неўтаймавáны; непаслухмя́ны

**lawlessness** [ˈlɔ:ləsnəs] n. 1. бяспрáўе *n.* 2. беззакóннасьць *f.*

**lawmaker** [ˈlɔ:meɪkər] n. заканадáв|ец -ўца, заканадáўц|а -ы *m.*

**lawmaking** [ˈlɔ:meɪkɪŋ] – adj. заканадáўчы
– n. заканадáўства *n.*

**lawman** [lɔ:mən] n., pl. **-men** ахóўнік закóну

**lawn I** [lɔ:n] n. трáўнік, газóн -у *m.*

**lawn II** [lɔ:n] n. баты́ст -у *m.*

**lawn mower** [ˈlɔ:nˌmoʊər] n. газóнакасíлка *f.*

**law of averages** закóн сярэ́дняга

**law of the land** закóн краíны; канстытýцыя

**lawsuit** [ˈlɔ:su:t] n. судóвы працэ́с, судóвая спрáва, суд -ý *m.*

**lawyer** [ˈlɔ:jər] n. прáўнік, адвакáт -а *m.*; юры́ст -а *m.*, юры́стка *f.*

**laxative** [ˈlæksətɪv] – n. слабíцельнае *n.*
– adj. слабíцельны

**lay I** [leɪ] – **laid, laying** – v.t. 1. клáсьці: ***Lay the baby down gently*** Пакладзí дзіця́ асьцярóжна. 2. валíць, клáсьці, прымінáць: ***A storm laid crops low*** Навальнíца прымя́ла пасéвы. 3. накрывáць: ***to lay a table for dinner*** накрывáць стол да абéду. 4. складáць: ***We have laid our plans*** Мы склáлі нáшыя пля́ны. 5. нéсьці (*я́йкі*). 6. віць, зьвівáць вярóўку
– v.i. 1. нéсьціся. 2. ляжáць
• ***lay aside, away*** or ***by*** адкладáць на пасьля́; ашчаджáць, прыхóўваць
• ***lay down*** а) паклáсьці. б) адклáсьці, прыхавáць на пасьля́
• ***lay hold of, on*** or ***upon*** а) захапíць што-н. б) скарыстáць з чагó-н.
• ***lay off*** а) звóльніць з прáцы. б) абазнáчыць (*мéжы*). в) адчапíцца
• ***lay on*** а) накладáць (*фáрбу, падáтак*). б) правóдзіць (*вадý, газ, элéктрыку*). в) лісьлíвіць
• ***lay oneself open*** вы́ставіць сябé (*на сьмех, небясьпéку*)
• ***lay oneself out,*** Informal сілíцца, намагáцца з усíх сіл; вылýзвацца са скýры
• ***lay out*** а) раскладáць, выкладáць: ***The refreshments were laid out*** Падмацýнкі былí расклáдзеныя. б) Informal вы́класьці, вы́даткаваць (*грóшы*). в) падрыхтавáць, прыбрáць (*нябóжчыка*)

**lay II** [leɪ] v., *p.t. of* **lie**

**lay III** [leɪ] adj. 1. сьвéцкі. 2. непрафэсíйны

**layer** [ˈleɪər] n. 1. а) клáдчык -а *m.*: ***bricklayer*** мýляр -а *m.* б) нóсная куры́ца, нясýшка *f.* 2. пласт -á *m.*; сло|й -ю *m.*

**layer cake** слаíсты пірóг

**layette** [leɪˈet] n. камплéкт вóпраткі для немаўля́ці

**layman** [ˈleɪmən] n., pl. **-men** 1. неспэцыяліст, непрафэсіяна́л -а *m.* 2. сьве́цкі -ага *m.* (*не духо́ўны*)
**layoff** [ˈleɪɔ:f] n. 1. часо́вае звальне́ньне з пра́цы. 2. час (працягласьць) звальне́ньня
**layout** [ˈleɪaʊt] n. 1. разьмяшчэ́ньне *n.*, плян -у *m.* 2. маке́т -а *m.* (*кні́гі, афі́шы*)
**lazily** [ˈleɪzɪli] adv. гультаява́та, ляні́ва
**laziness** [ˈleɪzɪnəs] n. гульта́йства *n.*
**lazy** [ˈleɪzi] adj. гультаява́ты, ляні́вы
**lazybones** [ˈleɪzibounz] n., Informal вялі́кі гульта́й -я́ *m.*, лайда́к -а́ *m.*
**lb.**, pl. **lb.** or **lbs** (**libra**, *лац.*) фунт -а *m.*
**lead I** [li:d] – v.t. 1. ве́сьці, прыво́дзіць: ***to lead a child by the hand*** ве́сьці дзіця́ за ручу́; ***to lead a horse to water*** паве́сьці каня́ да вады́; ***to lead astray*** зво́дзіць з до́брай даро́гі. 2. даво́дзіць: ***It led the country to the civil war*** Гэ́та давяло́ край да грамадзя́нскай вайны́. 3. право́дзіць (*час, жыцьцё*). 4. быць напе́радзе, быць на пе́ршым ме́сцы: ***to lead the parade*** ісьці́ пе́ршымі на пара́дзе; ***She leads the class in spelling*** Яна́ на пе́ршым ме́сцы ў кля́се ў піса́ньні. 5. кірава́ць, кама́ндаваць *кім-чым*; стая́ць на чале́ *чаго́*: ***to lead an army*** кама́ндаваць а́рміяй; ***to lead the movement*** стая́ць на чале́ ру́ху, кірава́ць ру́хам; ***to lead an orchestra*** дырыгава́ць арке́страм. 6. накіро́ўваць, схіля́ць: ***Curiosity led me to look again*** ціка́ўнасьць зму́сіла мяне́ паглядзе́ць ізно́ў. 7. хадзі́ць (*у гу́льні ў ка́рты*): ***to lead hearts*** хадзі́ць з чы́рваў
– v.i. 1. ве́сьці, даво́дзіць: ***Lead, I will follow*** Вядзі́, я пайду́ за табо́ю; ***All roads lead to Rome*** Усе́ даро́гі вяду́ць у Рым. 2. быць на пе́ршым ме́сцы
– n. 1. кіраўні́цтва *n.*, пры́клад -у *m.*: ***to follow the lead (leader)*** ісьці́ сьле́дам. 2. першынство́ *n.*, перава́га *f.*: ***to have a lead of five seconds*** вы́перадзіць на пяць сэку́ндаў. 3. гало́ўная ро́ля, гало́ўны выкана́ўца (*у п'е́се*). 4. а) усту́пны пара́граф. б) перадавы́ арты́кул
– adj. вяду́чы; гало́ўны, кіру́ючы
• ***lead off*** пачына́ць
**lead II** [led] – n. сьвін|е́ц -ца́ *n.*
– adj. сьвінцо́вы
**leaden** [ˈledən] adj. 1. сьвінцо́вы. 2. цяжкі́, як сьвіне́ц. 3. ну́дны, пану́ры. 4. сі́не-шэ́ры. 5. паво́льны; абцяжа́раны
**leader** [ˈli:dər] n. 1. правады́р, кіраўні́к -а́ *m.*, лі́дэр -а *m.* 2. рэ́гент -а *m.*, рэ́гентка *f.*; кіраўні́к (*арке́стру, хо́ру*)
**leadership** [ˈli:dərʃɪp] n. 1. правады́рства, лі́дэрства, кіраўні́цтва *n.* 2. кіраўні́чыя здо́льнасьці
**leading** [ˈli:dɪŋ] – adj. 1. кіру́ючы, вяду́чы. 2. найважне́йшы; гало́ўны; перадавы́
– n. настаўле́ньне *n.*, інстру́кцыя *f.*
• ***leading-edge*** перадавы́
**leading article** перадавы́ арты́кул (*у газэ́це*)
**leading question** наваднóе пыта́ньне
**leaf** [li:f] – n., pl. **leaves** 1. ліст -а́ і (*збо́рнае*) -у *m., pl.* лісты́, лісьцё *n.*: ***the fall of the leaves*** апада́ньне лісто́ў. 2. ліст -а́ *m.*, а́ркуш -а *m.* (*папе́ры, мэта́лу, фане́ры*). 3. устаўна́я до́шка, адкідна́я до́шка (*у стале́*)
– v.i. пакрыва́цца лісьцём, распуска́цца
– v.t. горта́ць, пераго́ртваць (*старо́нкі кні́гі*)
**leaf bud** по́чка, пупы́шка *f.*
**leaflet** [ˈli:flət] n. 1. малы́ *або́* малады́ лісто́к. 2. улётка, лісто́ўка *f.*
**leafstalk** [ˈli:fstɔ:k] n. чаран|о́к, хваст|о́к -ка́ *m.* (*ліста́*)
**leafy** [ˈli:fi] adj. 1. лі́сьцевы, лісьцьвяны́, ліставы́: ***the leafy woods*** лі́сьцевыя лясы́. 2. лістападо́бны
**league** [li:g] – n. лі́га *f.*; аб'е́днаньне асо́баў, арганіза́цыяў
– v.i., v.t. аб'ядно́ўвацца ў лігу; утвара́ць лі́гу
**League of Nations** Лі́га На́цыяў
**leak** [li:k] – n. 1. працёк -у *m.*, дзі́рка, шчы́ліна *f.* (*у страсе́, гаршку́*). 2. выцяка́ньне *n.* 3. уце́чка *f.* (*вады́, га́зу*)

– v.i. 1. цячы́, прасо́чвацца. 2. працяка́ць (*пра чараві́кі, чо́вен*). 3. прасо́чвацца, выдава́цца: ***The secret leaked out*** Сакрэ́т ста́ўся ве́дамым

**leakage** [ˈli:kɪdʒ] n. 1. выцяка́ньне, працяка́ньне, прасо́чваньне *n.* 2. вы́дадзены сакрэ́т. 3. уце́чка *f.* (*вады́, га́зу*)

**leaky** [ˈli:ki] adj. дзіра́вы, які́ працякáе,

**lean I** [li:n] – v., **leaned** (esp. Brit.) **leant** [lent] v.i. 1. пахіля́цца, нахіля́цца, схіля́цца. 2. абапіра́цца: ***Lean against me*** Абапры́ся на мяне́

– v.t. 1. нахіля́ць. 2. прыстаўля́ць, абапіра́ць. 3. спадзява́цца, разьлі́чваць, здава́цца: ***to lean on a friend's advice*** разьлі́чваць на ся́браву пара́ду. 4. схіля́цца (*у паглядах і пачу́цьцях*)

– n. нахі́л -у *m.*, пахі́ласьць *f.*

• ***lean on***, Sl. націска́ць (*на каго́-не́будзь*)

• ***lean over backward***, Informal перастара́цца

• ***on the lean*** пахі́лы, пахі́лены, нахі́лены, пад нахі́лам

**lean II** [li:n] – adj. 1. худы́: ***a lean face*** худы́ твар; ***lean cattle*** худа́я жывёла. 2. любо́вы, ня тлу́сты (*пра мя́са*). 3. бе́дны, мізэ́рны: ***a lean harvest*** бе́дны ўраджа́й; ***lean years*** неўраджа́йныя гады́

– n. любо́вае мя́са, любаві́на *f.*

**leaning** [ˈli:nɪŋ] n. 1. схі́льнасьць, тэндэ́нцыя *f.*; нахі́л -у *m.*: ***political leanings*** палíты́чныя прыхі́льнасьці. 2. схіля́ньне *n.*

**leant** [lent] v., *past & p.p. of* **lean I** пахі́лены, схі́лены, абапёрты

**leap** [li:p] – n. 1. скок, падско́к -у *m.* 2. далёкасьць ско́ку

– v.i. **leaped** or **leapt** [li:pt, lept] 1. скака́ць, падско́кваць. 2. мо́цна бі́цца (*пра сэ́рца*)

– v.t. пераско́кваць

• ***a leap in the dark*** скок у няве́дамае; рызыко́ўнае прадпрые́мства

• ***by leaps and bounds*** ве́льмі ху́тка, бо́рзда

**leapt** v., *past & p.p. of* **leap** пераско́кнуты

**leap year** высако́сны *або́* пераступ́ны год

**learn** [lɜ:rn] v., **learned** [lɜ:rnd] or **learnt** [lɜ:rnt] 1. вучы́цца, вывуча́ць: ***to learn French*** вывуча́ць францу́скую мо́ву. 2. даве́двацца; дазнава́цца: ***He learned the details of the accident*** Ён даве́даўся пра падрабя́знасьці няшча́снага вы́падку

**learned** [ˈlɜ:rnəd] adj. вучо́ны, адукава́ны

**learning** [ˈlɜ:rnɪŋ] n. 1. вучэ́ньне *n.* 2. вучо́насьць, адукава́насьць *f.* 3. ве́да *f.*

**learnt** [lɜ:rnt] **learned**, *past & p.p. of* **learn**

**leasable** [ˈli:səbəl] adj. які́ мо́жа арэндава́цца

**lease** [li:s] – n. 1. арэ́нда *f.*, на́ймы *pl.* 2. арэндава́ная маёмасьць

– v.t. арэндава́ць, найма́ць

**leash** [li:ʃ] n. павад|о́к -ка́ *m.*, абро́жка *f.*

• ***hold (have) in leash*** трыма́ць у зале́жнасьці

• ***on a long leash*** дава́ць шмат свабо́ды

• ***on a short (tight) leash*** абмяжо́ўваць, стры́мваць

**least** [li:st] – adj. найме́ншы

– n. найме́ншае -га *n.*: ***at (the) least*** пры́нáмся, пры́нáмсі, са́ма ме́ней; ***not in the least*** ані́

– adv. найме́нш: ***last but not least*** апо́шні, але ня ме́нш ва́жны

**least common denominator** агу́льны найме́ншы назо́ўнік

**least common multiple** агу́льнае найме́ншае дзе́ліва

**leather** [ˈleðər] – n. 1. ску́ра *f.* 2. вы́раб са ску́ры

– adj. 1. скураны́: ***leather gloves*** скураны́я пальча́ткі. 2. як ску́ра; раме́нны

– v.t. 1. пакрыва́ць ску́раю. 2. Informal лупцава́ць, біць рэ́мнем

**leathern** [ˈleðərn] adj. 1. скураны́. 2. як ску́ра; цьвярды́, як ску́ра

**leathery** [ˈleðəri] adj. падо́бны да ску́ры; скураны́; цьвярды́, як ску́ра: ***leathe-***

***ry steak*** біфштэ́кс цьвярды́, як падэ́шва

**leave I** [li:v] v., **left, leaving** 1. выхо́дзіць: ***He left the house*** Ён вы́йшаў з до́му; ***He left the room suddenly*** Ён ра́птам вы́йшаў з пако́ю. 2. a) выяжджа́ць: ***to leave the country*** вы́ехаць з кра́ю. б) пакіда́ць, кіда́ць: ***to leave a job*** пакі́нуць пра́цу. 3. пакіда́ць, ня бра́ць з сабо́ю: ***He left a book on the table*** Ён пакі́нуў кні́гу на стале́; ***to leave a window open*** пакі́нуць акно́ адчы́неным

• ***leave alone*** a) не чапа́ць. б) пакі́нуць у спакоі, не перашкаджа́ць

• ***leave behind*** a) забы́ць што-н. б) пакіда́ць ззаду, выперaджа́ць

• ***leave of absence*** бясплатны адпачы́нак

• ***leave off*** спыні́ць, затрыма́ць, перапыні́ць: ***Continue where you left off*** Праця́гвай адту́ль, дзе ты спыні́ўся

• ***leave out*** прапушча́ць, прапуска́ць (*сло́ва ў ска́зе*); выкіда́ць

**leave II** [li:v] n. 1. дазво́л -у *m.*, згода *f.* 2. во́дпуск -у *m.*, адпачы́н|ак -ку *m.*: ***on leave*** у адпачы́нку; ***on sick leave*** у адпачы́нку па хваро́бе. 3. ад'е́зд, адыхо́д -у *m.*; разьвіта́ньне *n.*

• ***maternity leave*** дэкрэ́тны адпачы́нак

• ***take leave of*** разьвіта́цца

**leaven** [ˈlevən] – n. 1. дро́жджы *pl.* 2. ро́шчына, заква́ска *f.* 3. Figur. узьдзе́яньне *n.*, уплы́|ў -ву *m.*

– v.t. 1. заква́шваць, рашчыня́ць (*це́ста*). 2. узьдзе́йнічаць

**leaves** [li:vz] n., *pl. of* **leaf** лісты́; лі́сьце *n.*

**leave-taking** [ˈli:vˌteɪkɪŋ] n. разьвіта́ньне *n.*

**leavings** [ˈli:vɪŋz] n., pl. рэ́шткі *pl.*, астáткі *pl.* (*е́жы*)

**Lebanese** [ˌlebəˈni:z] – adj. ліба́нскі

– n. ліба́н|ец -ца *m.*, ліба́нка *f.*

**lectern** [ˈlektərn] n. 1. анало́|й -ю *m.* 2. ка́тэдра *f.*

**lector** [ˈlektər] n. ле́ктар -а *m.*

**lectorate** [ˈlektərɪt] n. ле́ктарства *n.*

**lectress** [ˈlektrɪs] n. ле́ктарка *f.*

**lecture** [ˈlektʃər] – n. 1. ле́кцыя *f.*, дакла́д -у *m.* 2. настаўле́ньне, павуча́ньне *n.*,ната́цыя *f.*

– v.i. чыта́ць ле́кцыю

– v.t. рабі́ць вымо́ву, прабіра́ць

**led** [led] v., *past & p.p. of* **lead**

**ledge** [ledʒ] n. 1. падвако́ньне *n.* 2. вы́ступ -у *m.* (*скалы́*). 3. ру́дная жы́ла

**ledger** [ˈledʒər] n. 1. a) рэгістрацы́йны журна́л. б) бухга́льтарская кні́га. 2. надмагі́льная пліта́

**lee** [li:] n. схо́вішча, ахо́ва (*ад ве́тру*)

**leech** [li:tʃ] – n. 1. п'я́ўка *f.*: ***to stick like a leech*** прычапі́цца, як п'я́ўка. 2. вымага́льнік -а *m.*; крывапі́|вец -ўца *m.* 3. Archaic ле́кар -а *m.*

– v.i. 1. ста́віць п'я́ўкі. 2. Archaic лячы́ць

**leek** [li:k] n., Bot. парэ́|й -ю *m.*

**leer** [lɪr] n. юрлі́вы по́зірк

**lees** [li:z] n., pl. 1. фуз -у, аса́д|ак -ку *m.*: ***to drink to the lees*** вы́піць да апо́шняй кро́плі. 2. падо́ньне *n.*, падо́нкі *pl.*

**leeward** [ˈli:wərd] – adj., adv. 1. падве́траны, закры́ты ад ве́тру. 2. зь ве́трам

– n. падве́траны бок (*закры́ты ад ве́тру*)

**leeway** [ˈli:weɪ] n. 1. дрэйф -у *m.* 2. свабо́да дзе́яньня

**left I** [left] – adj. ле́вы: ***left turn*** паваро́т нале́ва; ***left bank*** *(of a river)* ле́вы бе́раг, левабярэ́жжа *n.*

– adv. нале́ва

– n. ле́вы бок: ***on the left*** зьле́ва, на ле́вым баку́

**left II** [left] v., *past & p.p. of* **leave I**

**left-handed** [ˌleftˈhændɪd] adj. 1. левару́кі: ***left-handed person*** ляўша́, ляўшу́н. 2. для ле́вай рукі. 3. Figur. нехлямя́жы, дзіўны́, няўда́лы (*камплімэ́нт, пахвала́*)

**left-hander** [ˌleftˈhændər] n. ляўша́ *m. & f.*, ляўшу́н леўшуна́ *m.*

**leftist** or **Leftist** [ˈleftɪst] n. ле́в|ы -ага, лява́к левака́ *m.*, член ле́вай па́ртыі

**leftover** [ˈleftˌoʊvər] n. рэ́шткa *f.*, аста́ткі *pl.* (*е́жы*)

**leg** [leg] n. 1. нагá *f.* 2. калóша, калашынá, штанíна *f.* (*нагавíцаў*). 3. нóжка *f.* (*сталá, крэ́сла*). 4. чáстка *f.*, этáп -у *m.*: ***last leg of the trip*** апóшні этáп падарóжжа. 5. бок трохкýтніка

• ***a leg up*** падсадзíць (*на каня́, на плот*)

• ***get up on one's hind legs*** стаць на ды́бкі, узьюшыцца, узлавáцца

• ***have not a leg to stand on*** ня мець ані́якай падстáвы (*абараня́цца*)

• ***on one's last legs*** а) валíцца з ног, заставáцца бяз ног. б) дайсьцí да рýчкі

• ***pull one's leg,*** Informal абдуры́ць *кагó*, пажартавáць, пасьмяя́цца з *кагó*

• ***shake a leg***, Sl. а) узварушы́цца. б) патанцавáць, паскакáць

• ***stretch one's legs*** пайсьцí на прахóдку, прайсьцíся

**legacy** [ˈlegəsi] n., pl. **-cies** спáдчына *f.*

**legal** [ˈli:gəl] adj. 1. юрыды́чны. 2. закóнны, узакóнены, легáльны

**legally** [ˈli:gəli] adv. легáльна

**legation** [lɪˈgeɪʃən] n. дыпляматы́чнае прадстаўні́цтва, пасóльства *n.*

**legend** [ˈledʒənd] n. 1. легéнда *f.*, нарóднае падáньне. 2. нáдпіс; умóўныя знакí абó тлумачэ́ньні (*да кáрты, пля́на*)

**legendary** [ˈledʒənderi] adj. легендáрны

**leggings** [ˈlegɪŋz] n. 1. лéгінзы *pl.* 2. гéтры *pl.*

**leggy** [ˈlegi] adj. даўганóгі; цыбáты

**legible** [ˈledʒəbəl] adj. чытэ́льны, разбóрлівы, вырáзны: ***legible handwriting*** разбóрлівы пóчырк

**legibly** [ˈledʒəbli] adv. разбóрліва, вырáзна

**legion** [ˈli:dʒən] n. 1. легіён -а *m.* (*жаўнéраў*). 2. легіён -а *m.*, мнóства *n.*

**legionnaire** [ˌli:dʒəˈner] – n. легіянэ́р -а *m.*
– adj. легіянэ́рскі

**legislate** [ˈledʒɪsleɪt] – v.i. выдавáць закóны
– v.t. пастанаўля́ць, прымáць пастанóву: ***The council legislated a new law*** Рáда прынялá нóвы закóн

**legislation** [ˌledʒɪˈsleɪʃən] n. 1. заканадáўства *n.* 2. вы́дадзены закóн

**legislative** [ˈledʒəsleɪtɪv] adj. заканадáўчы: ***a legislative body*** заканадáўчы óрган

**legislator** [ˈledʒəsleɪtər] n. заканадáвец -ўца *m.*

**legislature** [ˈledʒəslətʃər] n. заканадáўчая ўлáда, заканадáўчая ўстанóва, заканадáўчы óрган

**legitimacy** [lɪˈdʒɪtəməsi] n. закóннасьць, прáўнасьць *f.*

**legitimate** [lɪˈdʒɪtəmət] – adj. 1. закóнны, легіты́мны; дазвóлены. 2. нармáльны, звычáйны, прывы́чны. 3. закóннанарóджаны (*пра дзіця́*). 4. лягíчны: ***a legitimate conclusion*** лягíчная выснóва
– v.t. [lɪˈdʒɪtəmeɪt] узакóньваць

**legman** [ˈlegmən] n., pl. **-men** 1. пасы́льны рэпарцёр. 2. пасланéц -цá *m.*, асóба на пабягýшках

**leguminous** [lɪgˈju:mɪnəs] adj., Bot. бабóвы; струкóвы

**leisure** [ˈli:ʒər] – n. вóльны час, вóльныя часíны
– adj. 1. вóльны, незаня́ты. 2. бязьдзéйны, нічы́м не заня́ты; гуля́шчы

• ***at leisure*** вóльны, незаня́ты. б) не сьпяшáючыся, павóлі

• ***at one's leisure*** пры нагóдзе; калí ёсьць час, калí зрýчна: ***Do it at your leisure*** Зрабéце гэ́та, калí вам зручнéй

**leisured** [ˈli:ʒərd] adj. 1. бязьдзéйны, нічы́м не заня́ты: ***the leisured class of society*** бязьдзéйная кля́са грамáдзтва. 2. павóльны, марýдны; нясьпéшны (*крок*)

**leisurely** [ˈli:ʒərli] – adj. павóльны, марýдлівы, нясьпéшны
– adv. павóльна, марýдліва, не сьпяшáючыся

**leitmotif** or **leitmotiv** [ˈlaɪtmoʊˌti:f] n. ляйтматы́ў -ву *m.*

**lemon** [ˈlemən] – n. 1. лімóн -а *m.*, цытры́на *f.* 2. сьветла-жóўты, лімóнны кóлер

– adj. лімóнны (*кóлер і смак*)
**lemonade** [ˌleməˈneɪd] n. ліманáд -у *m.*
**lemon-colored** [ˌlemənˈkʌlərd] adj. лімóннага кóлеру
**lemon drop** лімóнны ледзянéц
**lend** [lend] v., **lent, lending,** v.t. 1. пазычáць. 2. надавáць: ***to lend probability to a story*** надавáць верагóднасьці апавядáньню
• ***lend a hand*** дапамагчы́
• ***lend itself*** or ***oneself to*** паддавáцца
• ***lend one's ear*** вы́слухаць
**length** [leŋθ] n. 1. даўжыня́ *f.* (*пра адлéгласьць*). 2. працягласьць (*чáсу*), працяжнасьць *f.* (*гу́ку*)
• ***at full length*** на ўсю даўжыню́
• ***at length*** а) нарэ́шце. б) падрабя́зна, абшы́рна
• ***keep at arm's length*** трымáцца на павáжнай адлéгласьці
**lengthen** [ˈleŋθən] – v.t. падаўжáць
– v.i. падаўжáцца
**lengthwise** [ˈleŋθwaɪz] – adv. уздóўж
– adj. падóўжны
**lengthy** [ˈleŋθi] adj. 1. задóўжаны, незвычáйна даўгí. 2. расьця́гнуты: ***lengthy description*** расьця́гнутае апісáньне
**leniency** [ˈli:niənsi] n. лагóднасьць, далікáтнасьць, паблáжлівасьць, талерáнтнасьць *f.*
**lenient** [ˈli:niənt] adj. паблажлíвы; памяркóўны; спагáдлівы
**lens** [lenz] n. 1. лíнза *f.* 2. Anat. крыштáлік -а *m.*: ***contact lenses*** кантáктныя лíнзы
**lent** [lent] v., *past & p.p. of* **lend**
**Lent** [lent] n. вялíкі пост (*пéрад Вялíкаднем*)
**Lenten** or **lenten** [ˈlentən] adj. 1. велікапóсны. 2. пóсны; змрóчны, несьвятóчны
**lentil** [ˈlentəl] n. сачыўка, сачавíца *f.*
**leonine** [ˈli:ənaɪn] adj. ільвíны; як леў
**leopard** [ˈlepərd] n. леапáрд -а *m.*
**leper** [ˈlepər] n. пракажóн|ы -ага *m.*, пракажóная *f.*
**leprosy** [ˈleprəsi] n. пракáза *f.*
**lesbian** [ˈlezbiən] n. лесьбія́нка *f.*
**less** [les] – adj., adv. 1. мéншы; менш, мéней: ***less known*** мéней вéдамы; ***less important*** менш вáжны. 2. ніжэ́йшы рáнгам, вéкам
– n. мéншая кóлькасьць, мéней: ***He refused to take less than $5*** Ён адмóвіўся ўзя́ць менш, як 5 даля́раў
– prep. без, мíнус: ***a year less two days*** год бяз двух дзён
• ***less and less*** усё мéней і мéней
• ***none the less*** тым ня менш
**lessen** [ˈlesən] – v.i. мéншаць, зьмяншáцца; спадáць, убывáць
– v.t. зьмяншáць; прымяншáць, парамяншáць: ***to lessen the achievements of others*** прымяншáць пóсьпехі íншых
**lesson** [ˈlesən] – n. 1. лéкцыя *f.*, урóк -у *m.*: ***to give a music lesson*** даваць лéкцыю му́зыкі; ***to prepare a Belarusian lesson*** падрыхтóўваць лéкцыю белару́скае мóвы. 2. наву́ка, наву́чка *f.*: ***Let this be a lesson to you*** Хай гэ́та бу́дзе для вас наву́кай. 3. Figur. натáцыя *f.*, настаўлéньне *n.*
– v.t. 1. даваць лéкцыі, вучы́ць. 2. Figur. рабíць вымóву, настаўля́ць, навучáць
**let** [let] v., **let, letting** v.t. 1. дазваля́ць; давáць: ***Let him tell it*** Дáйце яму́ сказáць. 2. а) пускáць, прапускáць: ***to let a person on board a ship*** прапусьцíць чалавéка на карабéль. 3. выпускáць: ***to let blood*** пускáць кроў. 4. здавáць у нáймы, здавáць у арэ́нду. 5. дапускáць: ***Let the two lines be parallel*** Дапу́сьцім, што гэ́тыя дзьве лíніі паралéльныя
• ***let down*** а) спускáць ніжэ́й. б) расчарóўваць, падвóдзіць. в) прынiжáць, зьневажáць
• ***let go*** пусьцíць, вы́пусьціць (*на вóлю ці з рук*)
• ***let in*** упушчáць, дазвóліць зайсьцí
• ***let know*** паведамíць
• ***let loose*** вы́зваліць, вы́пусьціць
• ***let me alone (be)*** не перашкаджáй мне, адчапíся ад мянé, пакíнь мяне ў спакóі

• ***let off*** а) адпусьці́ць (*са слу́жбы*); адпусьці́ць (*бяз ка́ры*). б) вы́пусьціць: ***to let off passengers*** выпушча́ць, выса́джваць пасажы́раў

• ***let out*** а) выпушча́ць, дазво́ліць вы́йсьці, уцячы́. б) падо́ўжыць *або́* пашы́рыць (*адзе́ньне*). в) здава́ць (*у на́ймы*). г) прагавары́цца, вы́даць таямні́цу

• ***Let's go home*** Хадзе́м дамо́ў

• ***Let's play*** Дава́й гуля́ць

**letdown** [ˈletdaʊn] n. 1. заняпа́д -у *m.* 2. расчарава́ньне *n.* 3. прыніжэ́ньне *n.*

**lethal** [ˈliːθəl] adj. сьмяро́тны (*пра ра́ну, збро́ю*), сьмяртэ́льны

**lethargic** [ləˈθɑːrdʒɪk] or **lethargical** [ləˈθɑːrdʒikəl] adj. 1. со́нны, вя́лы, апаты́чны. 2. летаргі́чны

**lethargy** [ˈleθərdʒi] n., pl. **-gies** 1. со́ннасьць, вя́ласьць, апаты́чнасьць *f.* 2. Med. летаргі́я *f.*

**letter** [ˈletər] – n. 1. лі́тара *f.* 2. ліст -а́ *m.* 3. літара́льны сэнс. 4. афіцы́йны дакумэ́нт, гра́мата *f.*

– v.t. 1. пазнача́ць лі́тарамі. 2. падпі́сваць

• ***letters*** пісьме́нства *n.*, літарату́ра *f.*: ***a man of letters*** пісьме́ньнік -а *m.*

• ***to the letter*** ве́льмі дакла́дна

**letter box** паштóвая скры́нка

**letter carrier** паштáр -á *m.*, паштáрка *f.*; лістанóша *m. & f.*

**lettered** [ˈletərd] adj. 1. пазна́чаны лі́тарамі. 2. пісьме́нны; начы́таны; адукава́ны, вучо́ны

**letterhead** [ˈletərhed] n. афіцы́йны бля́нк

**lettuce** [ˈletəs] n. сала́та *f.*

**leukemia** or **leukaemia** [luˈkiːmiə] n. леўкемі́я *f.*, рак крыві́

**levee I** [ˈlevi] n. 1. да́мба, грэ́бля *f.*; насып -у *m.* 2. берагавы́ вал ракі́. 3. пры́стань *f.*

**levee II** or **levée** [ˈlevi] n. афіцы́йнае ра́нішняе прыня́цьце

**level** [ˈlevəl] – adj. 1. ро́ўны: ***a level floor*** ро́ўная падло́га. 2. гарызанта́льны. 3. на тым са́мым узро́ўні. 4. адно́лькавы, ро́ўны, адно́лькава ва́жны: ***to be level in ability*** быць адно́лькава здо́льным, мець такі́я са́мыя здо́льнасьці. 5. ро́ўны, спако́йны: ***a level tone*** спако́йны тон. 6. ураўнава́жаны, разва́жны: ***a level head*** разва́жная галава́

– n. 1. а) пло́ская, гарызанта́льная паве́рхня, ро́ўнядзь *f.* б) узро́|вень -ўню *m.*: ***above sea level*** над узро́ўнем мо́ра. 2. вышыня́ *f.* (*паво́дкі і пад.*). 3. нарматы́ўная ко́лькасьць: ***cholesterol level*** ко́лькасьць халестэры́ну. 4. грунтва́га *f.*, ватэрпа́с -а *m.*

– v. 1. разраўно́ўваць; раўня́ць. 2. раўня́ць зь зямлёй, разбура́ць дашчэ́нту. 3. цэ́ліцца; накіро́ўваць, скіро́ўваць (*стрэл, сло́вы*). 4. ураўнава́жваць

• ***find one's level*** увайсьці́ ў рэ́чышча

• ***level off*** зраўня́цца, згла́дзіцца, ураўнава́жыцца

• ***level with*** Sl. сказа́ць пра́ўду, прызна́цца, адкры́цца

• ***one's level best*** не́чы найбо́льшы, найле́пшы вы́сілак; усё, што ад не́кага зале́жыць

• ***on the level*** Informal на ўзро́ўні; справядлі́ва, праўдзі́ва

**level crossing** пераéзд, перахóд -у *m.* (*чыгу́начны*)

**lever** [ˈlevər] – n. 1. падва́жнік -а *m.*; ва́га *f.*, вага́р -а́, рыча́г -а́ *m.*: ***control lever*** вага́р кірава́ньня

– v. падыма́ць падва́жнікам, ва́гай, рычаго́м

**leverage** [ˈlevərɪdʒ] n. 1. падва́жваньне *n.* 2. Figur. уплы́|ў -ву *m.*: ***to use leverage*** выкарысто́ўваць уплы́ў

**levitate** [ˈlevɪteɪt] v.i. падыма́цца й вісе́ць у паве́тры, быць у ста́не левіта́цыі

**levity** [ˈlevəti] n., pl. **-ties** 1. легкаду́мнасьць, несур'ёзнасьць *f.* 2. няста́ласьць, зьме́нлівасць *f.* 3. лёгкасьць *f.* (*вагі́*)

**levy** [ˈlevi] – v.t. 1. наклада́ць, зьбіра́ць (*пада́ткі*). 2. набіра́ць, мабілізава́ць у во́йска. 3. забра́ць (*за даўгі́*)

– n. 1. збор -у *m.* (*гро́шай, пада́ткаў*). 2. набо́р у во́йска

• ***levy war on (against)*** пачынáць вайнý супрóць *кагó*

**levy en masse** паспалíтае рушэ́ньне, рóднае апалчэ́ньне

**lewd** [lu:d] adj. 1. распýсны, агíдны; непрыстóйны. 2. Obsol. a) неадукавáны. б) нíзкі; бязвáртасны; беспрынцыпóвы

**lexical** [ˈleksɪkəl] adj. лексíчны; слóўнікавы

**lexicon** [ˈleksəkɑ:n] n. лексыкóн -а і -у *m.* a) слóўнік -а *m.* б) слóўны запáс

**liability** [ˌlaɪəˈbɪləti] n., pl. **-ties** 1. схíльнасьць *f.*: ***liability to disease*** схíльнасьць да хварóбаў. 2. абавя́занасьць, адкáзнасьць *f.*: ***liability for a debt*** адкáзнасьць за доўг. 3. перашкóда, замíнка *f.*

• ***liabilities*** даўгí, запазы́чанасьць

**liability insurance** страхóўка на вы́падак адкáзнасьці

**liable** [ˈlaɪəbəl] adj. 1. падлéглы *чамý*, схíльны да *чагó*: ***Glass is liable to break*** Шкло лёгка б'éцца. 2. адкáзны за *што*. 3. абавя́заны да *чагó*

**liaison** [ˈli:əzɑ:n] n. 1. сýвязь *f.*, узаемадачынéньне *n.* 2. нелегáльная любóўная сýвязь. 3. Phon. зьліцьцё гýкаў

**liaison officer** сувязны́ афіцэ́р

**liar** [ˈlaɪr] n. хлус -á *m.*, манюкla -i *m. & f.;* ілгýн -á *m.*, ілгýньня *f.*

**libel** [ˈlaɪbəl] – n. 1. зьнеслаўлéньне, ганьбавáньне *n.* 2. паклёп -у *m.*

– v.t. паклёпнічаць

**liberal** [ˈlɪbərəl] – adj. 1. шчóдры; багáты: ***a liberal donation*** шчóдрае ахвяравáньне. 2. а) талерáнтны; лібэрáльны: ***a liberal thinker*** мысьля́р з ширóкімі пóглядамі. б) адвóльны: ***a liberal interpretation of a rule*** вóльная інтэрпрэтáцыя прáвіла. 3. лібэрáльны

– n. лібэрáл -а *m.*

**Liberal** ся́бра пáртыі лібэрáлаў

**liberalism** [ˈlɪbərəlˌɪzəm] n. лібэралíзм -у *m.*

**liberality** [ˌlɪbəˈræləti] n., pl. **-ties** 1. шчóдрасьць *f.* 2. шчóдры дар. 3. талерáнтнасьць; лібэрáльнасьць *f.*

**liberal arts** вы́зваленыя, гуманітáрныя навýкі

**liberate** [ˈlɪbəreɪt] v.t. 1. вызваля́ць. 2. Chem. выдзяля́ць

**liberated** [ˈlɪbəreɪtəd] adj. вы́звалены

**liberation** [ˌlɪbəˈreɪʃən] n. вызвалéньне *n.*

**liberator** [ˈlɪbəreɪtər] n. вызвóльнік -а, вызвалíцелlь -я *m.*

**libertine** [ˈlɪbərti:n] – n. 1. распýсьнік -а *m.* 2. вальнадýмleц -ца *m.*

– adj. 1. распýсны, разбэ́шчаны. 2. вальнадýмны

**liberty** [ˈlɪbərti] n., pl. **-ties** 1. вóля *f.*; незалéжнасьць *f.* 2. прáва *n.*, свабóда *f.*: ***liberty of speech (action)*** свабóда слóва (дзéяньня). 2. дазвóл -у *m.*, згóда *f.* 3. прывілéі, правы́ *pl.* 4. вóльнасьць *f.*, лíшняя фамільярнасьць

• ***at liberty*** а) вóльны, на вóлі: ***to set prisoners at liberty*** вы́пусьціць вязьняў на вóлю. б) дазвóлены: ***You are at liberty to make any choice*** Вы мóжаце вы́браць, што хóчаце. в) незаня́ты

• ***take liberties*** дазваля́ць сабé вóльнасьці, празьмéрную фамілья́рнасьць

**libidinous** [lɪˈbɪdənəs] adj. юрлíвы

**librarian** [laɪˈbreriən] n. бібліятэ́кар -а *m.*, бібліятэ́карка *f.*

**library** [ˈlaɪbreri] n., pl. **-ries** бібліятэ́ка *f.*

**library stacks** кнíжныя фóнды

**Libyan** [ˈlɪbiən] – adj. лібíйскі

– n. лібíleц -йца *m.*

**lice** [laɪs] n., *pl. of* **louse**

**license** [ˈlaɪsəns] – n. 1. дазвóл -у *m.* 2. пасьвéдчаньне *n.* 3. ліцэ́нзія *f.* 4. злоўжывáньне свабóдай

– v.t. 1. давáць дазвóл. 2. дазваля́ць закóнам

**licentious** [laɪˈsenʃəs] adj. 1. распýшчаны, разбэ́шчаны, немарáльны. 2. які́ ня лíчыцца з прáвіламі

**lichen** [ˈlaɪkən] – n. 1. Bot. лішálй -я́ *m.*, лішáйнік -у *m.* 2. лішálй -я́ *m.* (*хварóба скýры*)

– v.t. пакрывáць мóхам

**lick** [lɪk] – v.t. 1. лізáць, аблíзваць. 2. вылíзваць: ***The cat licked the plate clean*** Кот чы́ста вы́лізаў талéрку. 3.

Informal біць, калаціць, лупцаваць. 4. Informal перамагаць (*у бойцы, спаборніцтве*)

– n. 1. аблізваньне *n.* 2. Informal удар -у *m.* 3. малая колькасьць, крыха *f.*

**licker** [ˈlɪkər] n. лізун -а *m.*, лізуха *f.*

**lickerish** [ˈlɪkərɪʃ] adj. 1. ласы; хціўы, прагавіты. 2. разбэшчаны; юрлівы

**licking** [ˈlɪkɪŋ] n. 1. Informal лупцоўка *f.*: ***to give a licking*** даць лупцоўку, набіць. 2. няўдача *f.*, пашкоджаньне *n.*: ***His business took a bad licking*** Ягонае прадпрыемства пацярпела вялікую няўдачу

**lickspittle** [ˈlɪkˌspɪtəl] n. лісьлілівец -ўца *m.*, падлізьнік, падхалім -а *m.*

**lid** [lɪd] n. 1. века *n.*, *dim.* вечка *n.* 2. накрыўка *f.* (*на гаршок*). 3. павека *n.* (*вока*)

**lie I** [laɪ] – n. 1. мана, ілжа, хлусьня *f.* 2. няпраўда *f.*

– v.i., **lied, lying** маніць, хлусіць, ілгаць; казаць няпраўду, ашукваць

• ***give the lie to*** а) абвінавачваць *каго* ў мане. б) выказваць нязгоду з *чым*

**lie II** [laɪ] – v., **lay, lain, lying,** v.i. 1. ляжаць. 2. лажыцца: ***to lie down*** лягаць; класьціся. 3. ***to lie idle (unused)*** ляжаць без ужытку. 4. ляжаць, знаходзіцца: ***Land that lay along a river*** Зямля, якая ляжала ўздоўж рэчкі; ***What a future lies before him!*** Што за будучыня перад ім!

– n. 1. месцазнаходжаньне *n.*, кірунак чаго-н. 2. становішча *n.*, стан -у *m.* (*справаў*). 3. лагво *n.*, бярлог -а *f.* (*зьвяра*)

• ***lie back*** адваліцца, адкінуцца, легчы на сьпіну

• ***lie by*** бязьдзейнічаць, адпачываць

• ***lie over*** адкласьці на пасьля

• ***take an insult lying down*** прыняць абразу моўчкі

**lieutenant** [luːˈtenənt] n. 1. намесьнік -а *m.*, намесьніца *f.* 2. лейтэнант -а *m.*

**lieutenant colonel** падпалкоўнік -а *m.*

**lieutenant general** генэрал-лейтэнант

**lieutenant governor** намесьнік губэрнатара

**life** [laɪf] n., pl. **lives** [laɪvz] 1. жыцьцё *n.*; існаваньне *n.* 2. час існаваньня *або* дзеяньня, трываньня: ***a lease's life*** тэрмін арэнды. 3. асоба *f.*, жывая істота: ***Five lives were lost*** Страчана было 5 асобаў. 4. жыцьцяпіс -у *m.*, біяграфія *f.* 5. запал -у *m.*, энэргія *f.*, жыцьцё: ***to put life into one's work*** працаваць з душой, запалам

• ***as big (large) as life*** а) у натуральную велічыню. б) уласнай асобай: ***Here he is as large as life*** Вось і ён уласнай асобай

• ***bring to life*** а) ажывіць, ажыць. б) прывесьці да прытомнасьці

• ***come to life*** апрытомнець.

• ***for life*** на ўсё жыцьцё, пажыцьцёва

• ***for dear life*** з усяе сілы, нібы ратуючы жыцьцё

• ***for the life of me*** нізашто ў жыцьці

• ***not on your life*** у ніякім выпадку

• ***take a life*** забіць *каго*

• ***take one's life in one's hands*** а) скончыць жыцьцё самагубствам. б) пайсьці на вялікую рызыку

**life belt** выратавальны пояс, кола

**lifeboat** [ˈlaɪfboʊt] n. выратавальная лодка, шлюпка *f.*

**life-giving** [ˈlaɪfˌgɪvɪŋ] adj. жыватворны, які падтрымоўвае жыцьцё

**lifeguard** [ˈlaɪfgɑːrd] n. ратаўнік -а *m.* (*на пляжы, у басэйне*)

**life imprisonment** пажыцьцёвае зьняволеньне

**life insurance** страхаваньне жыцьця

**life jacket** выратавальная камізэлька

**lifeless** [ˈlaɪfləs] adj. 1. пазбаўлены жыцьця: ***lifeless planet*** безжыцьцёвая плянэта. 2. мёртвы, нежывы

**lifelike** [ˈlaɪflaɪk] adj. як жывы; як сапраўдны

**lifelong** [ˈlaɪflɔːŋ] adj. на ўсё жыцьцё, праз жыцьцё, пажыцьцёвы: ***a lifelong commitment*** абавязаньне на ўсё жыцьцё

**lifesize** [ˈlaɪfsaɪz] or **life-sized** [ˈlaɪfsaɪzd] adj. у натуральную велічыню: ***a lifesize portrait*** партрэт у натуральную велічыню

# O

**O** *or* **o** [oʊ] n. **O's** *or* **o's.** 1. *пятна́ццатая лі́тара англе́льскага альфабэ́ту.* 2. нуль

**o'** [ə] prep. 1. = **of.**: ***man-o'-war*** вае́нны карабе́ль; ***six o'clock*** шо́стая гадзі́на. 2. = **on**: ***to knock o'the head*** уда́рыць па галаве́

**O** *or* **Oh** [oʊ] interj. o, ах: ***O my!*** *or* ***O dear me!*** О Бо́жачка! ***Oh, what a lie!*** О, яка́я мана́!

**oak** [oʊk] – n. дуб -а *m.* (*дрэ́ва*) дуб,-у *m.* (*драўні́на*)
– adj. дубо́вы: ***oak leaves*** дубо́выя лісты; ***an oak table*** дубо́вы стол; ***an oak grove*** дубро́ва *f.*

**oaken** [ˈoʊkən] adj. дубо́вы: ***the old oaken bucket*** старо́е дубо́вае вядро́

**oar** [ɔ:r] – n. весло́ *n.*: ***to rest on one's oars*** пераста́ць працава́ць *або́* стара́цца; спачы́ць на ла́ўрах
– v. веслава́ць

**oarsman** [ˈɔ:rzmən] n., pl. **- men** вясьля́р весьляра́ *m.*

**oasis** [oʊˈeɪsɪs] n., pl. **- ses** аа́зіс -у *m.*

**oat** [oʊt] – n. usually, **oats** pl. аве́с аўса́ *m.*; ***to sow one's wild oats*** спаганя́ць шал маладо́сьці
– adj. аўся́ны

**oatcake** [ˈoʊtkeɪk] n. аўся́ная ала́дка

**oath** [oʊθ] – n., ***oaths*** 1. прыся́га *f.*: ***under oath*** пад прыся́гай; ***to take an oath*** браць прыся́гу, прыся́гаць. 2. a) бажэ́ньне *n.*, бажба́ *f.* б) праклі́наньне *n.*, праклён - у *m.*
– v. 1. прыся́гаць. 2. бажы́цца; кля́сьціся

**oatmeal** [ˈoʊtmi:l] n. 1. аўся́ная мука́, кру́пы, аўся́нка *f.* 2. аўся́ная ка́ша, аўся́нка *f.*

**oat straw** аўся́ная сало́міна, аўся́ная сало́ма

**obdurate** [ˈɑ:bdʊrət] adj. 1. упа́рты, зацяты: ***an obdurate refusal*** упа́ртая адмо́ва. 2. чэ́рствы, бязду́шны; заўзя́ты; непапра́ўны: ***an obdurate criminal*** непапра́ўны злачы́нец

**obedience** [oʊˈbi:diəns] n. паслухмя́насьць *f.*, паслушэ́нства *n.*; падпара́дкаваньне *n.*

**obedient** [oʊˈbi:diənt] adj. паслухмя́ны

**obelisk** [ˈɑ:bəlɪsk] n. абэлі́ск -а *m.*

**obese** [oʊˈbi:s] adj. празьме́рна то́ўсты, сы́ты *або́* тлу́сты

**obesity** [oʊˈbi:səti] n. празьме́рная сы́тасьць, тлу́стасьць *f.*

**obey** [oʊˈbeɪ] v. слу́хацца, падпарадко́ўвацца

**obituary** [oʊˈbɪtʃueri] – n., pl. **-aries** нэкралёг -у *m.*
– adj. жало́бны, хаўту́рны

**object** [ˈɑ:bdʒekt] – n. 1. прадме́т -у *m.*, рэч *f.* 2. аб'е́кт -у *m.* (*вывучэ́ньня*). 3. сьме́шны *або́* дзі́ўны тып чалаве́ка. 4. мэ́та *f.*: ***to fail in one's object*** не ася́гнуць мэ́ты. 5. Gram. дапаўне́ньне *n.*; ***direct object*** про́стае дапаўне́ньне; ***indirect object*** ускосна́е дапаўне́ньне

– v. [əbˈdʒekt] 1. пярэ́чыць; не згаджа́цца з *кім*, выступа́ць супро́ць, супрацiўля́цца: ***I object to smoking*** Я супро́ць курэ́ньня. 2. не любíць, не цярпе́ць

**object glass** аб'екты́ў -ва *m.* (*тэлеско́па, мікраско́па*)

**objection** [əbˈdʒekʃən] n. 1. пярэ́чаньне *n.*; за́кід -у *m.*, засьцяро́га *f.*: ***to raise an objection*** вы́казаць засьцяро́гу, зрабíць за́кід, запярэ́чыць. 2. пратэ́ст -у *m.*; неахво́та *f.*; супрацiўле́ньне: ***strong objection to working*** вялі́кая неахво́та працава́ць

**objective** [əbˈdʒektɪv] – n. 1. мэ́та *f.*, імкне́ньне *n.* 2. Gram. ускóсны склон *або́* сло́ва ва ўско́сным скло́не
– adj. 1. мэ́тавы: ***an objective point*** канчатко́вая мэ́та. 2. аб'екты́ўны. 3. бесстаро́нні. 4. Gram. ускóсны

**objectivity** [ˌɑ:bdʒekˈtɪvəti] n. аб'екты́ўнасьць *f.*

**object lesson** 1. нагля́дная ле́кцыя. 2. нагля́дны до́вад

**objector** [əbˈdʒektər] n. той, хто пярэ́чыць; супрацí ўнік -а *m.*

**objurgate** [ˈɑ:bdʒərgeɪt] v. 1. свары́цца, крыча́ць на *каго́*. 2. дакара́ць *каго́*

**objurgatory** [ˌəbdˈʒɜ:rgətɔ:ri] adj. дако́рлівы

**obligate** [ˈɑ:blɪgeɪt] v. абавя́звац|ь (-ца)

**obligation** [ˌɑ:blɪˈgeɪʃən] n. 1. абавя́з|ак -ку *m.* 2. абавяза́ньне *n.*: ***to be under an obligation*** быць абавя́заным; ***to put under an obligation*** абавя́зваць. 3. доўг удзя́чнасьці. 4. паслу́га *f.*; ла́ска *f.*: ***to repay an obligation*** адплацíць за паслу́гу *або́* ла́ску; сплацíць доўг удзя́чнасьці

**obligatory** [əˈblɪgətɔ:ri] adj. прымусо́вы; абавязко́вы; кане́чны

**oblige** [əˈblaɪdʒ] v. 1. абавя́зваць; змуша́ць: ***to be obliged*** быць абавя́заным каму́-н.; ***much obliged!*** ве́льмі ўдзя́чны вам; шчы́ра дзя́кую. 2. рабíць паслу́гу, ла́ску *або́* прые́мнасьць: ***She obliged us with song*** Яна́ зрабíла нам прые́мнасьць і засьпява́ла пе́сьню

**obliging** [əˈblaɪdʒɪŋ] adj. ласка́вы; прыве́тлівы, рахма́ны; паслу́жлівы

**oblique** [əˈbli:k] adj. 1. нахíлены (*пра плó скасьць*), ко́сы (*пра лíнію*): ***oblique angle*** во́стры або́ тупы́ (няпро́сты) кут. 2. ухíлісты, няя́сны (*пра адка́з*). 3. патае́мны, скры́тны; закулíсны; нячы́сты: ***oblique dealings*** нячы́стыя апэра́цыі. 4. Gram. ускóсны: ***oblique case*** ускóсны склон

**obliquely** [əˈbli:kli] adv. наўско́с, наўскасы́, наўскася́к

**obliterate** [əˈblɪtəreɪt] v. 1. сьцíра́ць; заціра́ць; зьнішча́ць: ***Heavy rain obliterated the footprints*** Вялíкі дождж змыў сьляды́. 2. згла́джваць, гаíць: ***Time obliterates sorrow*** Час го́іць боль душы́

**obliteration** [əˌblɪtəˈreɪʃən] n. сьціра́ньне, заціра́ньне, зьнішчэ́ньне *n.*

**oblivion** [əˈblɪviən] n. 1. забыцьцё *n.*, няпа́мяцтва *n.*: ***to pass into oblivion*** пайсьцí ў забыцьцё, быць забы́тым. 2. а) бяспа́мяцтва *n.* б) забы́ўлівасьць, няпа́мятлівасьць *f.*; блага́я па́мяць

**oblivious** [əˈblɪviəs] adj. 1. забы́ўлівы, няпа́мятлівы, няўва́жны, нядба́йны. 2. бяспа́мятны

**oblong** [ˈɑ:blɔ:ŋ] – adj. 1. падо́ўжны, прадаўгава́ты. 2. прастаку́тны
– n. прастаку́тнік -а *m.*

**obnoxious** [ɑ:bˈnɑ:kʃəs] adj. ве́льмі непрые́мны, невыно́сны; пры́кры, бры́дкі; ненавíдны, ненавíсны

**obscene** [əbˈsi:n] adj. непрысто́йны, бессаро́мны; брыдкí (*пра сло́вы*), бру́дны (*мара́льна*)

**obscenity** [əbˈsenəti] n., pl. **-ties** 1. непрысто́йнасьць, бессаро́мнасьць *f.* 2. а) брыдкíя сло́вы. б) разбэ́шчанасьць *f.*

**obscure** [əbˈskjʊr] – adj. 1. няя́сны, ма́ла зразуме́лы, незразуме́лы: ***an obscure style of writing*** няя́сны стыль пíса́ньня. 2. няве́дамы; малава́жны, нязна́чны: ***an obscure little village*** мала́я няве́дамая вёсачка; ***an obscure poet*** няве́дамы паэ́т; ***an ob-***

***scure position*** малава́жнае стано́вішча. 3. схава́ны, ледзь ба́чны; ***an obscure path*** ледзь ба́чная сьцё́жка. 4. невыра́зны, няя́сны: ***an obscure form*** невыра́зная фо́рма; ***obscure sounds*** няя́сныя гу́кі. 5. цё́мны, цьмя́ны: ***an obscure corner*** цё́мны кут
– v. 1. засланя́ць; закрыва́ць, загараджа́ць сабо́ю. 2. зацьмі́ць: ***Clouds obscured the sun*** Хма́ры зацьмі́лі со́нца

**obscurity** [əbˈskjʊrəti] n., pl. **-ties** 1. няя́снасьць, незразуме́ласьць *f.* 2. не́шта няя́снае, незразуме́лае. 3. нявё́дамасьць *f.*: ***to rise from obscurity to fame*** зь нявё́дамасьці ўзвы́сіцца да сла́вы. 4. малаве́дамая асо́ба *або́* мясцо́васьць. 5. це́мра, цьмя́насьць *f.*

**obsequies** [ˈɑ:bsəkwiz] n., pl. пахава́льны цырыманія́л; пахо́віны зь вялі́кай по́мпай

**obsequious** [əbˈsi:kwiəs] adj. лісьлі́вы, падлі́зьлівы; уго́длівы, даго́длівы, пада́тлівы

**obsequiousness** [əbˈsi:kwiəsnəs] n. уго́длівасьць, даго́длівасьць, пада́тлівасьць *f.*; лісьлі́васьць, падлі́зьлівасьць *f.*

**observable** [əbˈzɜ:rvəbəl] adj. 1. лё́гка ба́чны. 2. яко́га трэ́ба прытры́мвацца; які́ выко́нваецца (*зако́н*)

**observance** [əbˈzɜ:rvəns] n. 1. прытры́мваньне (*зако́ну*), адзначэ́ньне *n.* (*сьвя́та*). 2. рэлігі́йны цырыманія́л. 3. пра́віла *або́* звы́чай, яко́га трэ́ба трыма́цца. 4. назіра́ньне *n.*

**observant** [əbˈzɜ:rvənt] adj. 1. назіра́льны, ува́жны. 2. які́ прытры́мваецца (*пра́вілаў, зако́ну, звы́чаяў*)

**observation** [ˌɑ:bzərˈveɪʃən] n. 1. назіра́льнасьць *f.*, нагля́д -у *m.*: ***to keep under observation*** трыма́ць пад нагля́дам. 2. назіра́ньне *n.*: ***The tramp escaped observation*** Валацу́га ўцё́к ад назіра́ньня. 3. назіра́ньне, дасьле́даваньне *n.* 4. заўва́га, за́цемка *f.*, вы́казаная ду́мка, камэнта́р -у́ *m.*

**observational** [ˌɑ:bzərˈveɪʃənəl] adj. назіра́льны

**observatory** [əbˈzɜ:rvətɔ:ri] n., pl. **-ries** 1. абсэрвато́рыя *f.* 2. назіра́льны пункт

**observe** [əbˈzɜ:rv] v. 1. назіра́ць, нагляда́ць; заўважа́ць. 2. сказа́ць, заўва́жыць. 3. прытры́мвацца, трыма́цца, захо́ўваць: ***to observe a rule*** трыма́цца пра́віла; ***to observe silence*** захо́ўваць маўча́ньне. 4. сьвяткава́ць, ушано́ўваць

**observer** [əbˈzɜ:rvər] n. назіра́льнік, наглядальнік -а *m.*

**obsess** [əbˈses] v. апанава́ць, авало́даць, апанта́ць

**obsession** [əbˈseʃən] n. 1. насланьнё *n.*, апанта́насьць *f.* 2. неадчэ́пная ду́мка, ідэ́я фікс

**obsessive** [əbˈsesɪv] adj. апанта́ны

**obsolescence** [ˌɑ:bsəlˈesəns], n. састарэ́ласьць, перастарэ́ласьць *f.*

**obsolete** [ˌɑ:bsəlˈi:t] adj. 1. састарэ́лы, які́ ўжо́ ня ўжыва́ецца, які́ вы́йшаў з ужы́тку (*пра сло́ва*). 2. ве́льмі стары́; перастарэ́лы, нямо́дны

**obstacle** [ˈɑ:bstəkəl] n. перашко́да, замі́нка *f.*; загаро́джа *f.*

**obstetrics** [əbˈsterɪks] n. акушэ́рства *n.*

**obstinacy** [ˈɑ:bstɪnəsi] n., pl. **-cies** упо́рыстасьць, упа́ртасьць, нараві́стасьць *f.*

**obstinate** [ˈɑ:bstɪnət] adj. упо́рысты, упа́рты; нараві́сты

**obstinately** [ˈɑ:bstɪnətli] adj. упа́рта; нараві́ста, упо́рыста

**obstruct** [əbˈstrʌkt] v. 1. заступа́ць, перагараджа́ць (*даро́гу*), зава́львацаць (*прахо́д*). 2. закрыва́ць (*від*). 3. заміна́ць, перашкаджа́ць *каму́*

**obstruction** [əbˈstrʌkʃən] n. 1. перашко́да, замі́нка *f.* 2. перашкаджа́ньне, перагаро́джваньне *n.* 3. затры́мка *f.*, тармажэ́ньне *n.*: ***the obstruction of progress*** тармажэ́ньне по́ступу

**obtain** [əbˈteɪn] v. здабыва́ць; астава́ць, атры́мваць: ***to obtain knowledge*** здабыва́ць ве́ды; ***to obtain tickets*** даста́ць білё́ты

**obtrude** [əbˈtru:d] v. 1. навя́зваць: ***Don't obtrude your opinions on others*** Не навя́звай сваё по́гляды і́ншым. 2. на-

про́швацца, набіва́цца (*на знаём-ства*); урыва́цца, уме́швацца

**obtrusion** [əbˈtru:ʒən] n. навя́званьне, уме́шваньне, уварва́ньне *n.*

**obtrusive** [əbˈtru:sɪv] adj. даку́члівы, насты́рлівы, назо́йлівы; упо́рысты

**obtuse** [əbˈtu:s] n. 1. тупы́: ***obtuse angle*** тупы́ кут. 2. тупы́, нязд́ольны, някемлівы (*пра чалаве́ка*). 3. прыту́плены, асла́блы (*пра слых, зрок*)

**obviate** [ˈɑ:bvieɪt] v. пазьбяга́ць, пазбаўля́цца, адхіля́ць, ухіля́цца: ***to obviate a difficulty*** пазба́віцца ця́жкасьці; ***to obviate danger*** адхілі́ць небясьпе́ку

**obvious** [ˈɑ:bviəs] adj. я́сны; відаво́чны, я́ўны, бясспрэ́чны: ***It is obvious that two and two make four*** Бясспрэ́чна што два й два — чаты́ры

**occasion** [əˈkeɪʒən] – n. 1. наго́да, акалі́чнасьць *f.*: ***on the occasion of*** з наго́ды чаго́-н. 2. спэцыя́льная падзе́я *або́* наго́да: ***this festive occasion*** гэ́тая ўрачы́стая наго́да. 3. прычы́на, падста́ва *f.;* зачэ́пка *f.*: ***the occasion of the quarrel*** прычы́на сва́ркі; ***on occasion*** ча́сам, часа́мі, калі́-нікалі́, пры наго́дзе

– v. дава́ць падста́ву, быць прычы́най

**occasional** [əˈkeɪʒənəl] adj. 1. рэ́дкі, выпадко́вы: ***an occasional thunderstorm*** выпадко́вая навальні́ца. 2. прынаго́дны: ***occasional poetry*** прынаго́дная паэ́зія

**occasionally** [əˈkeɪʒənəli] adv. часчасо́м, час ад ча́су, ад ча́су да ча́су

**Occident** [ˈɑ:ksɪdənt] n. 1. За́хад -у *m.* (*краі́ны Захо́дняй Эўро́пы й Амэ́рыкі*). 2. за́хад -у *m.*

**occidental** [ˌɑ:ksəˈdentəl] adj. захо́дні

**occlude** [əˈklu:d] v. 1. забіва́ць; затыка́ць; зачыня́ць (*прахо́д*). 2. Chem. убіра́ць (*га́зы*). 3. Dentistry шчы́льна сыхо́дзіцца (*пра зу́бы ве́рхняй і ні́жняй сківі́цы*)

**occult** [əˈkʌlt] – adj. 1. тае́мны, патае́мны, запаве́тны. 2. звышнатура́льны, місты́чны

– n. ***the occult*** місты́чнае вучэ́ньне

**occultism** [əˈkʌlˌtɪzəm] n. акульты́зм -у *m.* (*ве́ра ў місты́чныя сілы*)

**occupancy** [ˈɑ:kjəpənsi] n. заня́цьце *n.*; завало́даньне (*зямлёю, до́мам*)

**occupant** [ˈɑ:kjəpənt] n. 1. жыха́р -а́ *m.* 2. ула́сьнік -а (*до́ма, зямлі́*). 3. той, хто займа́е якое-н. стано́вішча. 4. акупа́нт -а *m.*

**occupation** [ˌɑ:kjəˈpeɪʃən] n. 1. заня́т|ак -ку *m.*, прафэ́сія *f.* 2. акупа́цыя *f.*: ***the occupation of a town by the enemy*** акупа́цыя го́раду во́рагам

**occupational** [ˌɑ:kjəˈpeɪʃənəl] adj. прафэсі́йны: ***occupational diseases*** прафэсі́йныя хваро́бы

**occupy** [ˈɑ:kjəpaɪ] v., **-pying, -pied** 1. займа́ць: ***The garden occupies 5 acres*** Сад займа́е пяць а́краў. 2. акупава́ць. 3. быць на стано́вішчы: ***to occupy an important position*** займа́ць ва́жнае стано́вішча. 4. быць заня́тым: ***to be occupied with something*** займа́цца чым-н.

**occur** [əˈkɜ:r] v. 1. быва́ць, здара́цца. 2. сустрака́цца; налуча́цца; трапля́цца. 3. прыхо́дзіць на ду́мку, паду́маць: ***Did it occur to you to close the window?*** Ці ты паду́маў зачыні́ць акно́? ***it occurred to me*** мне паду́малася, мне прыйшло́ ў галаву́

**occurrence** [əˈkɜ:rəns] n. 1. зьяўле́ньне, здарэ́ньне *n.*, вы́пад|ак -ку *m.*: ***unexpected occurrence*** нечака́нае здарэ́ньне; ***everyday occurrence*** штодзённае здарэ́ньне; ***The occurrence of storms delayed our trip*** Надыхо́д навальні́цы затрыма́ў на́шую пае́здку. 2. Geol. месцазнахо́джаньне *n.*, пакла́ды *pl.*

**ocean** [ˈoʊʃən] n. акія́н -у *m.*

**ocean bed** дно акія́ну

**oceanic** [ˌoʊʃiˈænɪk] adj. 1. акія́нскі. 2. акіяні́чны, які́ жыве́ ў акія́не. 3. велічэ́зны, як акія́н

**o'clock** [əˈklɑ:k] **= of the clock**: ***What o'clock is it?*** Като́рая гадзі́на? ***at nine o'clock in the morning*** а дзявя́тай гадзі́не ра́ніцы

**octagon** [ˈɑ:ktəgɑ:n] n. васьміку́тнік -а *m.*
**octagonal** [ɑ:kˈtægənəl] adj. васьміку́тны
**October** [ɑ:kˈtoʊbər] n. кастры́чнік -а *m.*
**octopus** [ˈɑ:ktəpəs] n. васьміно́г -а *m.* (*малю́ск*), спрут -а *m.*
**ocular** [ˈɑ:kjələr] – adj. 1. во́чны: ***an ocular muscle*** во́чны му́скул. 2. перакана́ўчы, які́ мо́жна ба́чыць на сваé во́чы
– n. акуля́р -а *m.* (*тэлеско́па, мікраско́па*)
**oculist** [ˈɑ:kjəlɪst] n. ле́кар-во́чнік *m.*, акулі́ст -а *m.*
**odd** [ɑ:d] adj. 1. які́ застае́цца: ***keep the odd change*** пакі́нь сабé рэ́шту. 2. няпа́рны: ***an odd stocking*** няпа́рная панчо́ха. 3. дадатко́вы; выпадко́вы; незаня́ты, во́льны: ***odd players*** запасны́я гульцы́; ***odd jobs*** выпадко́выя рабо́ты; ***odd moments*** во́льныя хвілі́ны. 4. зь лі́шкам: ***twenty odd years*** два́ццаць зь лі́шкам гадо́ў; ***five hundred odd*** пяцьсо́т зь лі́шкам. 5. няцо́тны, няпа́рны: ***Five is an odd number*** Пяць — няцо́тны лік; ***odd houses*** дамы́ зь няцо́тнымі нумара́мі. 6. дзіўны́, дзіва́цкі; дзіво́тны, незвыча́йны: ***odd couple*** дзіўна́я па́ра
**oddity** [ˈɑ:dəti] n., pl. **-ties** 1. асаблі́васьць, нязвы́класьць, дзі́ўнасьць *f.*; дзіва́цтва *n.* 2. дзіва́к -а́ *m.*, дзіва́чка *f.* 3. дзі́ўнае здарэ́ньне, дзі́ўны вы́падак
**odds** [ɑ:dz] n., pl. or sing. 1. перава́га *f.*: ***The odds are in our favour*** Перава́га на на́шым баку́. 2. няро́ўнасьць *f.*; ро́зьніца *f.*; адро́зьненьне *n.*: ***to make odds even*** ліквідава́ць няро́ўнасьць
• ***be at odds*** сварыцца, ня ла́дзіць, ня жыць у зго́дзе
• ***odds and ends*** аста́ткі; рэ́шткі *pl.*; абрэ́зкі
• ***the odds are*** ёсьць ша́нцы, праўдападо́бна
**ode** [oʊd] n. о́да *f.*
**odious** [ˈoʊdiəs] adj. ненаві́дны, ненаві́сны; агі́дны; паску́дны: ***odious behavior*** агі́дныя паво́дзіны, агі́дныя мане́ры
**odium** [ˈoʊdiəm] n. 1. няна́вісьць, нелюбо́ў *f.* 2. папро́к -у *m.*; упі́ка *f.*; га́ньба, пля́ма *f.*
**odor**, Brit. **odour** [ˈoʊdər] n. 1. пах, во́дар -у *m.* 2. душ|о́к -ка́ *m.*; пры́смак -у *m.*, адцéньне *n.*
• ***be in bad odor*** а) мець благу́ю сла́ву. б) быць непапуля́рным
**odorless** [ˈoʊdərləs] adj. бяз па́ху
**odorous** [ˈoʊdərəs] adj. паху́чы, духмя́ны
**Odyssey** [ˈɑ:dəsi] n., pl. **-seys** 1. Адысэ́я *f.* 2. адысэ́я (*блука́ньні й падаро́жжы з ро́знымі прыго́дамі*)
**of** [ʌv, *unstressed* əv] prep. 1. (*слу́жыць для выка́званьня прыналéжнасьці, матэрыя́лу, я́касьці*): ***the house of my ancestors*** дом маі́х про́дкаў. 2. з: ***a house of bricks*** дом з цэ́глы.; ***a house of six rooms*** дом з шасьці́ пако́яў; ***a look of pity*** жа́лю ва́рты вы́гляд; ***a man of his word*** чалавек сло́ва. 3. ад; пра: ***north of Ottawa*** на по́ўнач ад Ата́вы; ***to think well of someone*** до́бра ду́маць пра каго́-н.; ***the news of the victory*** ве́стка пра перамо́гу
• ***die of grief*** паме́рці ад тугі
• ***one of them*** адзі́н зь іх
• ***of late years*** няда́ўнымі гада́мі
• ***smell of onions*** па́хнуць цыбу́ляй
• ***the drinking of water*** піцьцё вады́
• ***the writings of Shakespeare*** тво́ры Шэ́ксьпіра
**off** [ɔ:f] – prep. ад (*перадае́ значэ́ньне заканчэ́ньня, адры́ву, аддалéньня*): ***A button is off the coat*** Гу́зік адарва́ўся ад паліта́; ***three kilometers off the town*** тры кілямэ́тры ад го́раду
– adv. (*перадае́ адлу́чанасьць, адда́ленасьць, спынéньне, сканчэ́ньне*): ***He took off his hat*** Ён зьняў капялю́ш; ***to be far off*** быць далёка ад; ***Easter is two weeks off*** Вялі́кдзень за два ты́дні; ***Switch the light off*** Вы́ключы сьвятло́; ***The light is off*** Сьвятло́ вы́ключанае; ***The game was called off***

Гульня́ была́ адклі́каная; ***an afternoon off*** во́льны час папаўдні́; ***to pay the debt off*** сплаці́ць доўг; ***Be off*** Уцяка́й! Пайшо́ў вон!

– adj. 1. адлу́чаны, вы́ключаны: ***The electricity is off*** Эле́ктрыка вы́ключаная. 2. во́льны (*ад пра́цы*): ***off hours*** гадзі́ны во́льныя ад пра́цы; ***an off day*** выхо́дны дзень. 3. (*перадае́ стан*): ***to be well off*** быць замо́жным: ***He is badly off*** Ён жыве́ ў вялі́кай нястА́чы; ***The milk seems to be off*** Выглядае́, што малако́ сапсава́лася. 4. пра́вы: ***the off hind leg*** пра́вая за́дняя нага́

– interj. (*перадае́ адпрэ́чваньне*): ***Off with*** Пайшо́ў прэч! Адыйдзі́ся!

• ***off and on*** нерэгуля́рна, зь перапы́нкамі

• ***off the cuff*** без падрыхто́ўкі; неабду́мана (*пра выка́званьне*)

**offal** [ˈɔ:fəl] n. 1. трыбухі (*жывёліны, забі́тае на мя́са*) *pl. only*. 2. адкі́ды *pl. only* ; сьмяццё *n.*, адпа́ды *pl. only*

**offbalance** [ˌɔ:fˈbæləns] – adj. неўраўнава́жаны, хі́сткі; нястА́лы, зьме́нлівы; непадрыхтава́ны.

– adv. хі́стка; зьнячэ́ўку, зьняна́цку

**offbeat** [ˌɔ:fˈbi:t] adj. нязвы́клы, незвыча́йны

**offcast** [ˈɔ:fkæst] – adj. адкі́нуты; вы́кінуты (*з грама́дзтва*); яко́га вы́ракліся

– n. адкі́нуты з грама́дзтва

**offend** [əˈfend] v. 1. абража́ць; узлава́ць, раззлава́ць. 2. крыўдзіць. 3. грашы́ць; чыні́ць несправядлі́васьць

**offender** [əˈfendər] n. 1. крыўдзіцел|ь -я *m.*, крыўдзіцелька *f.*; зьневажа́льнік, абража́льнік -а *m.* 2. правапаруша́льнік -а *m.*, ліхадзе́|й -я *m.*

**offense**, Brit. **offence** [əˈfens] n. 1. праві́нанасьць *f.*, парушэ́ньне зако́ну: ***to commit an offense*** правіні́цца. 2. кры́ўда, абра́за, зьнява́га *f.*: ***No offense was intended*** Я не хаце́ў вас абра́зіць: ***to give offense*** зьнява́жыць, абра́зіць, скры́ўдзіць; ***to take offense*** абра́зіцца, пакры́ўдзіцца, крыўдава́ць. 3. напа́д -у *m.*, ата́ка *f.*, наступле́ньне *n.*, на́ступ -у *m.* (*во́йска*)

**offenseless**, Brit. **offenceless** [əˈfensləs] adj. 1. без наступле́ньняў, нязд́ольны атакава́ць або́ наступа́ць. 2. бяскры́ўдны

**offensive** [əˈfensɪv] – adj. 1. абра́зьлівы; кры́ўдны. 2. непрые́мны: ***an offensive odor*** непрые́мны пах. 3. наступа́льны ***an offensive army*** а́рмія, яка́я наступа́е

– n. 1. наступа́льная *або́* агрэсі́ўная пазы́цыя. 2. ата́ка *f.*

**offer** [ˈɔ:fər] – v. 1. прапанава́ць; ахвярава́ць; дава́ць: ***He offered to help us*** Ён запрапанава́ў нам дапамагчы́; ***to offer a proposal*** падава́ць прапано́ву; ***to offer resistance*** супраціўля́цца, адбіва́цца. 2. надара́цца: ***if the opportunity offers*** калі́ нада́рыцца наго́да. 3. спрабава́ць; мець наме́р, наме́рвацца: ***to offer to strike*** наме́рыцца ўда́рыць. 4. дава́ць: ***He offered twenty dollars for our old stove*** Ён дава́ў два́ццаць даля́раў за на́шую стару́ю пліту́

– n. 1. прапано́ва *f.* 2. наме́р -у *m.*

**offering** [ˈɔ:fərɪŋ] n. 1. ахвярава́ньне *n.* 2. ахвя́ра *f.*, дар -у *m.*

**offhand** [ˌɔ:fˈhænd] – adv. 1. з рукі́, экспро́мптам, з хо́ду, на хаду́, без падрыхто́ўкі. 2. бесцырымо́нна

– adj. 1. імправізава́ны. 2. про́сты, бесцырымо́нны. 3. няве́тлівы, нетакто́ўны

**office** [ˈɑ:fəs] n. 1. канцыля́рыя *f.*, бюро́ *n.*; канто́ра *f.* 2. кабінэ́т, о́фіс -а *m.*: ***doctor's office*** кабінэ́т ле́кара; ***post office*** по́шта; ***inquiry office*** бюро́ даве́дак; ***a ticket office*** про́даж біле́таў, біле́тная ка́са. 3. паса́да *f.*; пост паста́ *m.*: ***the highest public office*** найвышэ́йшая дзяржа́ўная паса́да. 4. зада́ньне *n.*, абавя́з|ак -ку *m.*: ***A teacher's office is teaching*** Зада́ньне наста́ўніка — вучы́ць. 5. паслу́га *f.*: а) ***good office*** ве́тлівасьць *f.*; паслу́га *f.* б) ***ill office*** блага́я паслу́га; варо́жасьць *f.*

6. царкóўная слýжба: ***the communion office*** абрáд прычашчэ́ньня; ***last offices*** пахавáльны абрáд

**office boy** пасыльн|ы́ -óга *m.*

**officeholder** [ˈɑ:fəsˌhoʊldər] n. службó|вец -ўца *m.*; службóвая асóба (*на ўрáдавай пасáдзе*)

**officer** [ˈɑ:fəsər] – n. 1. афіцэ́р -а *m.* (*у áрміі, ваéнна-марскíм флёце абó авіяцы*). 2. капітáн караблí. 3. урáдавы *абó* íншы службóвец: ***a health officer*** санітáрны інспэ́ктар; ***a police officer*** паліцыя́нт (*афіцы́йная абó вéтлівая фóрма*)

– v.t. кіравáць *кім-чым*

**official** [əˈfɪʃəl] – n. службóвая асóба, службó|вец -ўца *m.*: ***bank officials*** бáнкавыя службóўцы

– adj. 1. службóвы: ***an official uniform*** службóвая ўніфóрма; ***official duties*** службóвыя абавя́зкі. 2. афіцы́йны; урáдавы: ***official representative*** афіцы́йны прадстаўнíк; ***official communication*** афіцы́йнае паведамлéньне; ***official data*** афіцы́йныя дáдзеныя

**officially** [əˈfɪʃəli] adv. афіцы́йна

**officiate** [əˈfɪʃieɪt] v. 1. выкóнваць службóвыя абавя́зкі: ***to officiate as chairman*** выкóнваць абавя́зкі старшынí; ***to officiate as host*** быць за гаспадарá. 2. адпраўля́ць набажэ́нства

**officious** [əˈfɪʃəs] adj. 1. празьмéрна паслýжлівы; якí навя́звае свае́ паслýгі; назóльны. 2. якí лю́біць сýнуць нос не ў сваё

**off-key** [ˌɔ:fˈki:] adj. 1. ня ў тóн, негармані́йны. 2. не на мéсцы, недарэ́чны: ***off-key remark*** заўвáга не на мéсцы

**off-limits** [ˌɔ:fˈlɪmɪts] adj. забарóнены

**offprint** [ˈɔ:fprɪnt] n. асóбны адбíтак арты́кулу (*з чáсапісу*)

**offset** [ˌɔ:fˈset] – v. 1. выраўнóўваць; зраўнавáжваць; наганя́ць; кампэнсавáць. 2. пускáць атóжылак. 3. друкавáць афсэ́тным спóсабам

– n. [ˈɔ:fset] 1. выраўнáньне, зраўнавáжаньне *n.*, кампэнсáцыя *f.* 2. Bot. пáраст|ак, атóжыл|ак -ка *m.* 3. афсэ́т -у *m.* 4. раптóўны згін *абó* вы́гін у трубé

**offshoot** [ˈɔ:fʃu:t] n. 1. пáраст|ак, атóжыл|ак -ка *m.* (*з галíны*). 2. адгалінавáньне *n.* 3. нашчáд|ак, патóм|ак -ка *m.*; бакавáя галíна рóду

**offshore** [ˌɔ:fˈʃɔ:r] – adj. 1. ад бéрагу, зь бéрагу: ***an offshore wind*** вéцер зь бéрагу. 2. прыбярэ́жны: ***offshore fisheries*** прыбярэ́жнае рыбáцтва

– adv. у кірýнку ад бéрагу ў мóра

**offside** or **off-side** [ˌɔ:fˈsaɪd] adj. на няпрáвільным бакý

**offspring** [ˈɔ:fsprɪŋ] n. 1. a) нашчáд|ак, патóм|ак -ка *m.* б) вы́вад|ак -ка *m.* (*жывёлы*). 2. вы́нік -у *m.*

**offstage** [ˌɔ:fˈsteɪdʒ] adj. закулíсны

**off-the-cuff** [ˌɔ:fðəˈkʌf] adj., adv., Informal непадрыхтавáны, без падрыхтóўкі, экспрóмптам, з рукí

**off-white** [ˌɔ:fˈhwaɪt] – n. брýдна-бéлы кóлер, вéльмі сьвéтлы бэ́жавы *абó* шэ́ры кóлер

– adj. амáль бéлы

**often** [ˈɔ:fən] adv. чáста, нярэ́дка, цірэ́дка

**ogle** [ˈoʊgəl] – v. 1. глядзéць зь пяшчóтаю на *кагó*. 2. стрóіць вóчкі *камý*

– n. пяшчóтны пóзірк

**ogre** [ˈoʊgər] n. вóлат, людаéд -а *m.*

**oh** *or* **Oh** [oʊ] interj. О! Ой!

**ohm** [oʊm] n., Electr. ом -а *m.* (*адзíнка электры́чнага супрацíўлéньня*)

**oil** [ɔɪl] – n. 1. алé|й -ю *m.* 2. нáфта *f.*; рэ́дкая мазýта-алíва. 3. алéйная фáрба. 4. алéйны жы́вапіс *абó* партрэ́т

– v. 1. мáзаць (*мазýтай, алíвай*): ***to oil the wheels*** падмáзаць кóлы. 2. мáзаць, падмáзваць; давáць хáбар, падкупля́ць

• ***pour oil on troubled waters*** прымíрыць, уціхамíрыць хвалявáньне, бýчу

• ***strike oil*** натрáпіць на нáфту; натрáпіць на вялíкую ўдáчу

**oilcloth** [ˈɔɪlklɔ:θ] n. цырáта *f.*

**oil color** 1. алéйная фáрба. 2. алéй, карцíна, напíсаная алéйнай фáрбай

**oil derrick** буравáя *абó* нáфтавая вы́шка
**oiler** [ˈɔɪlər] n. 1. змáзчык -а *m.* 2. масьлёнка *f.* 3. Tech. нафтатрáнспартны вадаплáў, тáнкер -а *m.*: ***oilers*** цырáтавае непрамакáльнае адзéньне
**oil field** нáфтавае пóле (*дзе знóйдзеная нáфта*)
**oil gland** тлýшчавая залóза
**oil industry** нафтаздабывáльная і ачышчáльная прамыслóвасьць
**oil of vitriol** купарвáсны алéй
**oil paint** алéйная фáрба
**oil painting** 1. карцíна, напíсáная алéйнай фáрбай. 2. малявáньне алéйнымі фáрбамі
**oil paper** алéйная папéра
**oilstone** [ˈɔɪlstoʊn] n. асялІóк -кá *m.* (*тачы́льны кáмень*)
**oil tanker** нáфтавы тáнкер
**oil well** нáфтавая сьвідравíна *f.*
**oily** [ˈɔɪli] adj. 1. алéйны. 2. алéісты; блішчáсты, глянцавы (*пра ліст*); сьлíзкі. 3. тлýсты (*пра валасы́*); масьлянíсты. 4. мáсьлены, саладжáвы, лíсьлівы: ***an oily smile*** мáсьленая ўсьмéшка
**ointment** [ˈɔɪntmənt] n. масьць, мазь *f.*
**O.K.** *or* **OK** [ˌoʊˈkeɪ] – adj., adv. усё ў парáдку; дóбра; прáвільна; згóда
– v. ухваляць; падтры́мваць; згаджáцца
**okay** [ˌoʊˈkeɪ] adj., adv., Informal, *гл.* **O.K.**
**old** [oʊld] – adj. 1. стары́; старэ́нькі: ***old people*** стары́я; ***old man*** старІы́ -óга *m.*; ***old woman*** старáя *f.*; ***an old house*** стары́ дом; ***old clothes*** старáя вóпратка, лáхі *pl.*; ***to grow old*** старэ́ць. 2. (*пры пытáньні пра век асóбы*): ***How old is he?*** Кóлькі ямý гадóў? ***He is ten years old*** Ямý дзéсяць гадóў. 3. закаранéлы: ***to be old in wrongdoing*** быць закаранéлым злачы́нцам. 4. дáўні; былы́: ***an old friend*** дáўні сябра; ***an old student*** былы́ вýчань; ***Old Belarusian*** старабеларýская мóва; ***good old fellow*** (*ласкáльны зварóт*) дóбры чалавéча
– n. стары́я часы́: ***the heroes of old*** герóі стары́х часóў
**old age** стáрасьць *f.*: ***old age pension*** пэ́нсія па стáрасьці; ***in one's old age*** пад стáрасьць
**olden** [ˈoʊldən] adj., Poet. стары́, старасьвéцкі: ***olden times*** старасьвéтчына *f.*
**old-fashioned** [ˌoʊldˈfæʃənd] adj. старамóдны; нямóдны; састарэ́лы; стары́
**old hand** знáІвец -ўцá *m.*, мáйстрІа -ы *m.* высóка кваліфікавáны *абó* спрактыкавáны чалавéк
**oldish** [ˈoʊldɪʃ] adj. старавáты
**old maid** старáя дзéўка, векавýха *f.*
**old-timer** [ˌoʊldˈtaɪmər] n. старажы́л -а *m.*
**olive** [ˈɑːlɪv] – n. 1. алíўка, масьлíна *f.* 2. алíўкавы кóлер
– adj. алíўкавы, алíўкавага кóлеру
**olive branch** алíўкавая галíнка (*сы́мбаль мíру*)
**olive oil** алíўкавы алей
**Olympic Games** алімпíйскія гýльні
**omen** [ˈoʊmən] – n. прымéта *f.*; знак -у *m.*, адзнáка *f.*; прадказáньне, прадвéсьце *n.*
– v.i. служы́ць прымéтай; азначáць, прадвяшчáць
**ominous** [ˈɑːmɪnəs] adj. злавéсны; непрыхíльны, пагрóзьлівы
**omission** [oʊˈmɪʃən] n. 1. прóпуск -у *m.*; прапускáньне. 2. недагля́д -у *m.*
**omit** [oʊˈmɪt] v., **(-tt-)** 1. прапушчáць, прапускáць; занядбóўваць. 2. не рабíць чагó-н: ***She omitted to make her bed*** Янá не заслáла свой лóжак
**omnipotence** [ɑːmˈnɪpətəns] n. усеўлáдзьдзе *n.*, неабмежавáная ўлáда
**omnipotent** [ɑːmˈnɪpətənt] adj. усеўлáдны; усемагýтны
• ***the Omnipotent, the*** УсемагýтнІы -ага *m.*, Бог -а *m.*
**omnipresent** [ˌɑːmnɪˈprezənt] adj. усю́дыісны, паўсю́дны
**omniscience** [ɑːmˈnɪʃəns] n. усёвéданьне *n.*
**omniscient** [ɑːmˈnɪʃənt] adj. усёвéдны, зь вéльмі вялíкімі вéдамі
**omnivorous** [ɑːmˈnɪvərəs] adj. 1. усеéдны; усёпажырáльны. 2. прáгны: ***an omnivorous reader*** прáгны чытáч

**on** [ɑ:n] – prep. 1. на (*для абазначэ́ньня ме́сца*): а) *на пыта́ньне «дзе?» зь ме́сным скло́нам*: ***The book is on the table*** Кні́га на стале́; ***a house on the shore*** дом на бе́разе мо́ра; ***He lives on the next street*** Ён жыве́ на насту́пнай ву́ліцы. б) *на пыта́ньне «куды́?» зь вінава́льным скло́нам*: ***Put on the table, please*** Калі ла́ска, палажэ́це на стол. в) ***march on the capital*** марш на сталіцу. 2. над: ***The town lies on the lake*** Го́рад ляжы́ць над во́зерам. 3. (*для абазначэ́ньня ча́су*): а) ***on Tuesday*** у аўто́рак. б) ***on the next day*** на другі́ дзень. в) ***on the 5th of February*** пя́тага лю́тага. г) ***on time*** у пару́, у час. 4. у ча́се чаго́-н., калі́: а) ***They greeted us on our arrival*** Яны́ віта́лі нас, калі́ мы прыеха́лі. б) ***on my way home*** па даро́зе дамо́ў. 5. (*для абазначэ́ньня мэ́ты*): ***He went on business*** Ён паехаў па спра́вах. 6. (*для абазначэ́ньня прычы́ны, падста́вы, крыні́цы*): а) ***It is all clear on the evidence*** Усё я́сна са сьве́дчаньняў. б) ***The news is on good authority*** Ве́стка з пэ́ўнай крыні́цы. 7. пра, аб, на; адно́сна чаго́-н: а) ***a book on animals*** кні́га пра зьвяро́ў. б) ***to talk on many subjects*** гавары́ць на шмат які́я тэ́мы. в) ***my opinion on that question*** мая́ ду́мка адно́сна таго́ пыта́ньня. г) ***I congratulate you on your success*** Я віншу́ю вас з уда́чай. 8. у: а) ***on fire*** у агні́. б) ***on duty*** у ча́се слу́жбы. в) ***to be on the go*** быць у ру́ху, у пра́цы; зьбіра́цца адыхо́дзіць. г) ***on leave*** у адпачы́нку. д) ***on the list*** у сьпі́се. 9. у скла́дзе, у лі́ку чаго́-н.: ***on the committee*** у скла́дзе камітэ́ту, у камітэ́це; ***on the jury*** у лі́ку прысяжны́х

– adj. уклю́чаны, адкры́ты, пача́ты: ***The race is on*** Спабо́рніцтвы ўжо́ іду́ць

– adv. (*пака́звае на праця́г дзе́яньня*): ***Hold on, or you may fall*** Трыма́йся, а то ўпадзе́ш

• ***and so on*** і гэ́так далей́, і да таго́ падо́бнае

• ***Defeat on defeat discouraged them*** Няўда́ча за няўда́чай зьнеахво́чвала іх

• ***from this day on*** ад гэ́тага дня

• ***Go on!*** Рабі́ далей́! Працяѓвай!

• ***later on*** пасьля́, пазьней́

• ***look on*** угляда́цца на *каго́-што*

• ***on and off*** ча́сам, часа́мі; час-часо́м

• ***on and on*** бесьперапы́нку

• ***on purpose*** наўмы́сна

• ***She had a green hat on*** Яна́ была́ ў зялёным капелюшы́

• ***The light is on*** Сьвятло́ гары́ць

• ***Turn on the gas!*** Уключы́ газ!

• ***walk (march) on*** ісьці́ (маршырава́ць) далей́

• ***What had he on?*** У чым ён быў? У што ён быў апра́нуты?

• ***What is on tonight?*** Што сёньня ідзе́? Што пака́зваюць? (*у кіно́, тэа́трах*); ***Macbeth is on tonight*** Сёньня ігра́юць «Макбэта»

**once** [wʌns] – adv. 1. адзі́н раз: ***He comes once a day*** Ён прыхо́дзіць раз у дзень. 2. адно́йчы, не́калі, калі́сьці; даўно́: ***a once powerful nation*** не́калі магу́тная на́цыя; ***once and again*** неаднаразо́ва, шматразо́ва

– n. адзі́н раз: ***Once is enough*** Аднаго́ ра́зу дастатко́ва

– conj. калі́, як то́лькі

– adj. ко́лішні: ***a once friend*** ко́лішні ся́бра

• ***all at once*** ра́птам

• ***at once*** а) за́раз жа, неадкла́дна. б) аднача́сна

• ***for once*** гэ́тым ра́зам

• ***once (and) for all*** канча́льна, канчатко́ва; раз назаўсёды

• ***once in a while*** калі́-нікалі́, зрэ́дку

• ***once more*** яшчэ́ раз

• ***once or twice*** раз ці два, не́калькі разо́ў

• ***once upon a time*** даўны́м-даўно́; адно́йчы; (*а на пача́тку ка́зкі*) жыўбыў, жылі́-былі́

**oncoming** [ˈɑːnˌkʌmɪŋ] – adj. надыхо́дзячы.
– n. надыхо́д -у *m.*: ***the oncoming of the storm*** надыхо́д навальні́цы

**one** [wʌn] – n. 1. ад|зі́н -нагó *m.*, адна́ *f.*, адно́ *n.*: ***one by one*** адзі́н па адны́м; ***at one*** як адзі́н, у зго́дзе. 2. (*замяня́е ране́й ужы́ты назо́ўнік*): ***I gave him the one he wanted*** Я даў яму́ то́е, што ён хаце́ў. 3. адно́ цэ́лае: ***to make one*** а) быць адны́м (*з гру́пы, па́ртыі*). б) злучы́цца з *кім*; ажані́цца з *кім*; ***one and all*** усе́
– adj. 1. адзі́н: а) ***one apple*** адзі́н я́блык. б) ***I saw him one day last week*** Я ба́чыў яго́ аднаго́ дня на мі́нулым ты́дні. 2. такі́ са́мы: ***They held one opinion*** Яны́ былі́ тае́ са́мае ду́мкі. 3. не́йкі, адзі́н: ***One John Brown was elected*** Вы́бралі не́йкага Джона Бра́ўна. 4. няшма́т: ***one or two*** не́калькі. 5. пе́ршы: а) ***room one*** пако́й ну́мар адзі́н. б) ***volume one*** пе́ршы том
– pron. (*ужыва́ецца безасабо́ва*): ***One never knows what may happen*** Ніко́лі ня ве́даеш, што мо́жа зда́рыцца; ***One must observe the rules*** Трэ́ба трыма́цца пра́вілаў; ***one another*** адзі́н аднаго́; ***They were in one another's way*** Яны́ заміна́лі адзі́н аднаму́

**one and a half** паўтара́ *m. & n.*, паўтары́ *f.*: ***a century and a half*** паўтара́ стаго́дзьдзя

**one-eyed** [ˌwʌnˈaɪd] adj. 1. аднаво́кі. 2. сьляпы́ на адно́ во́ка

**one-handed** [ˌwʌnˈhændɪd] adj. аднару́кі

**one-horse** [ˌwʌnˈhɔːrs] adj. 1. аднако́нны (*са́ні, воз*). 2. які́ ма́е аднаго́ каня́ (*пра гаспадара́*)

**one-legged** [ˌwʌnˈlegɪd] adj. аднано́гі

**one-man** [ˌwʌnˈmæn] adj. 1. аднаасабо́вы: ***a one-man show*** спэкта́кль з адно́й дзе́йнай асо́бай. 2. аднаме́сны

**oneness** [ˈwʌnnəs] n. 1. адзі́нства *n.*; то́еснасьць *f.* 2. зго́да *f.*, сула́дзьдзе *n.*, сула́днасьць *f.*

**onerous** [ˈoʊnərəs] adj. цяжкі́, цяжкава́ты (*пра пра́цу*), гнятлі́вы; даку́члівы

**oneself** [ˌwʌnˈself] pron. 1. сябе́. а): ***One knows oneself better than anybody*** Сябе́ зна́еш лепш, чымся каго́ і́ншага. б) ***One should wash oneself regularly*** Трэ́ба мы́цца рэгуля́рна. 2. сам: ***by oneself*** адзі́н, сам сабе́, сам-на́сам; ***One has to do it by oneself*** Даво́дзіцца рабі́ць гэ́та самому́. 3. сам сабо́ю: ***to be oneself*** а) быць самы́м сабо́ю. б) натура́льна трыма́цца

**one-sided** [ˌwʌnˈsaɪdɪd] adj. 1. аднабако́вы, неаб'екты́ўны; прадузя́ты. 2. няро́ўны. 3. аднабо́кі; крывы́

**one-time** [ˈwʌntaɪm] adj. былы́; ко́лішні

**one-track** [ˌwʌnˈtræk] adj. 1. аднакале́йны. 2. Informal ву́зкі: ***One-track mind*** аднабако́вы ро́зум

**one-way** [ˌwʌnˈweɪ] adj. аднакіру́нкавы, аднабако́вы: ***one-way traffic*** аднабако́вы рух; ***one-way street*** ву́ліца з аднабако́вым ру́хам; ***one-way ticket*** білéт у адзі́н бок

**onion** [ˈʌnjən] n. 1. цыбу́ля *f., coll.* 2. цыбу́ліна, цыбу́лька *f.*

**onionlike** [ˈʌnjənlaɪk] adj. цыбу́лісты

**onionskin** [ˈʌnjənskɪn] n. 1. луска́ цыбу́лі. 2. то́нкая паўпразры́стая папе́ра

**onlooker** [ˈɑːnˌlʊkər] n. наглядáльнік -а *m.*, гляда́ч збо́ку

**only** [ˈoʊnli] – adj. адзі́ны: ***an only son*** адзі́ны сын; ***the only writer for my taste*** адзі́ны пісьме́ньнік, як на мой густ
– adv. 1. усяго́, то́лькі, адно́: ***He sold only two*** Ён прада́ў то́лькі два; ***Only he remained*** Адно́ ён заста́ўся; ***if only*** абы́ то́лькі; ***Only to say something*** Абы́ сказа́ць не́шта. 2. ве́льмі: ***I am only too pleased to help you*** Я ве́льмі ра́ды памагчы́ вам
– conj. а́ле: ***I would do it with pleasure, only I am too busy*** Я зрабі́ў бы гэ́та з прые́мнасьцю, а́ле я мо́цна заня́ты

**onrush** [ˈɑːnrʌʃ] n. гвалто́ўны на́ціск (*ва́ды́*)

**onset** [ˈɑːnset] n. 1. ата́ка *f.* 2. пача́т|ак -ку *m.*: ***the onset of a disease*** пача́так хваро́бы

**onshore** [ˌɑ:nˈʃɔ:r] – adj. узьбярэ́жны, прыбярэ́жны
– adv. на бе́разе; у бок бе́рагу

**onslaught** [ˈɑ:nslɔ:t] n. напо́рыстая ата́ка, штурм -у *m.*

**onto** [ˈɑ:ntu] prep. на: ***to get onto a horse*** узьле́зьці на каня́

**onward(s)** [ˈɑ:nwərdz] – adv. напе́рад; упе́рад
– adj. ***an onward movement began*** пача́ўся рух напе́рад

**ooze** [u:z] – v. 1. прасо́чвацца, сачы́цца. 2. зьнікáць, мінáць: ***His courage oozed away as he waited*** Адвáга ў ягó зьнікáла, пакýль ён чакáў; ***His strength oozed away*** Сíлы ягó пакíнулі
– n. павóльнае цячэ́ньне, прасóчваньне

**opaque** [oʊˈpeɪk] adj. 1. непразры́сты, сьветланепранікáльны. 2. цёмны, мáтавы. 3. няя́сны; мáла зразумéлы, незразумéлы. 4. дурны́

**open** [ˈoʊpən] – adj. 1. адчы́нены, адкры́ты. 2. незапóўнены; незаня́ты, дастýпны; вóльны: ***a position still open*** станóвішча яшчэ́ не заня́тае; ***to have an hour open*** мець вóльную гадзíну; ***in the open air*** на вóльным павéтры; ***an open market*** вóльны ры́нак; ***an open meeting*** адкры́ты сход (*дастýпны для ўсíх*). 3. адкры́ты, нявы́рашаны: ***an open question*** адкры́тае, нявы́рашанае пытáньне. 4. я́ўны, адкры́ты: ***open contempt*** я́ўная пагáрда. 5. шчы́ры, адкры́ты: ***an open face*** шчы́ры, адкры́ты твар. 6. ***an open flower*** расьцьвíлая квéтка. 7. шчóдры, гасьцíнны; распасьцерты: ***Give with an open hand*** Давáй шчóдраю рукóю; ***to welcome with open arms*** вітáць з распасьцертымі рукáмі. 8. Phon. адкры́ты (*пра склад*).
– n. 1. адтýліна, прóрва, зéўра *f.* (*я́мы*) *f.* 2. а) адкры́ты прастóр; адкры́тае мóра: ***in the open*** пад адкры́тым нéбам. б) да агýльнага вéдама
– v. 1. адчыня́ць|ь (-ца) (*пра дзьвéры*), адкрывáць|ь (-ца). 2. расчышчáць, церабíць (*прахóд*). 3. адкрывáць|ь (-ца), пачынáць|ь (-ца): ***to open an account*** адкры́ць рахýнак
• ***open a shop*** адкры́ць крáму (майстэ́рню)
• ***open on*** выхóдзіць, адкрывáцца на
• ***open one's eyes*** расплю́шчыць вóчы
• ***open one's eyes to something*** адкры́ць камý-н. вóчы на штó-н.
• ***open the debate (meeting)*** адкры́ць дыскýсію (пасéджаньне)
• ***open up*** раскрывáць|ь (-ца), разгóртвáць|ь (-ца). б) пачынáць|ь (-ца), рабíць|ь (-ца) дастýпным. в) разьвівáць|ь (-ца)

**open-air** [ˌoʊpənˈer] adj. пад адкры́тым нéбам, на вóльным павéтры

**open-eyed** [ˌoʊpənˈaɪd] adj. 1. з расплю́шчанымі вачы́ма. 2. пíльны, увáжлівы. 3. назірáльны

**openfaced** [ˌoʊpənˈfeɪst] adj. 1. з шчы́рым сумлéнным твáрам. 2. а) без нáкрыўкі (*напр. гадзíньнік*). б) пра бутэрброд — не прыкры́ты другóй лýстачкай хлéба

**open-handed** [ˌoʊpənˈhændɪd] adj. шчóдры

**openhearted** [ˌoʊpənˈhɑ:rtɪd] adj. 1. шчы́ры. 2. дóбры, спрыя́льны; шчóдры

**opening** [ˈoʊpənɪŋ] n. 1. адтýліна, дзíрка *f.*; прóрва, зéўра *f.* (*я́мы*). 2. пéршая чáстка; пачáт|ак -ку *m.*, устýп -у *m.* 3. афіцы́йнае адкрыццё (*канфэрэ́нцыі*). 4. вакáнсія *f.* (*на прáцы*). 5. зрýчная, кары́сная нагóда *абó* магчы́масьць

**openly** [ˈoʊpənli] adv. 1. адкры́та, прóста; шчы́ра. 2. публíчна

**open-minded** [ˌoʊpənˈmaɪndɪd] adj. справядлівы, непрадузя́ты, з шырóкім кругагля́дам

**open-mouthed** [ˌoʊpənˈmaʊðd] adj. 1. з разя́ўленым рóтам (*ад зьдзіўлéньня*). 2. хцíвы, прáгны, сквáпны; пражэ́рлівы. 3. з шырóкім гóрлам (*збанóк*)

**opera I** [ˈɑ:pərə] n. óпэра *f.*

**opera II** [ˈɑ:pərə] n., pl. of **opus** літарату́рныя тво́ры *або́* музы́чныя кампазы́цыі

**opera glasses** тэатра́льны біно́кль

**opera house** 1. о́пэрны тэа́тар. 2 тэа́тар наагу́л

**operate** [ˈɑ:pəreɪt] v. 1. дзе́яць, працава́ць: ***The machinery operates night and day*** Машы́ны працу́юць дзень і ноч. 2. абслуго́ўваць: ***to operate an elevator*** абслуго́ўваць ліфт. 3. кірава́ць (*пра́цай*); вало́даць (*маёмасьцю*): ***That company operates factories in many countries*** Та́я кампа́нія ма́е фа́брыкі ў мно́гіх краёх. 4. прычыня́цца; служы́ць, быць прычы́най; дзе́яць: ***Several causes operated to bring on the war*** Не́калькі прычы́наў падзе́ялі на распача́цьце вайны́. 5. Med. рабі́ць апэра́цыю. 6. право́дзіць ває́нныя апэра́цыі

**operatic** [ˌɑ:pəˈrætɪk] adj. о́пэрны

**operation** [ˌɑ:pəˈreɪʃən] n. 1. дзе́яньне *n.*, пра́ца *f.*: ***to come into operation*** пача́ць працава́ць, дзе́яць; ***in operation*** а) у дзе́яньні, працу́е. б) у выкарыста́ньні, ва ўжы́тку. 2. кірава́ньне, абслуго́ўваньне *n.*: ***the operation of a machine*** абслуго́ўваньне машы́ны. 3. апэра́цыя *f.* 4. Math. дзе́яньне *n.*: ***Addition, subtraction, multiplication and division are the four arithmetic operations*** Склада́ньне, адыма́ньне, мно́жаньне й дзяле́ньне — чаты́ры арытмэты́чныя дзе́яньні. 5. працэ́с -у *m.*: ***the operation of brushing one's teeth*** працэ́с чы́шчаньня зубо́ў

**operational** [ˌɑ:pəˈreɪʃənəl] adj. апэраты́ўны, у дзе́яньні

**operative** [ˈɑ:pərətɪv] – adj. 1. які́ ма́е сі́лу (*пра зако́н*): ***to become operative*** увайсьці́ ў сі́лу (*пра зако́н*). 2. апэраты́ўны, дзе́йны. 3. апэрацы́йны

– n., Informal дэтэкты́ў -ва, шпік -а́ *m.*

**operator** [ˈɑ:pəreɪtər] n. 1. апэра́тар -а *m.* а) до́ктар хіру́рг. б) кваліфікава́ны рабо́чы, мэха́нік -а *m.* 2. тэлефані́ст, тэлеграфі́ст, рады́ст -а *m.* 3. дырэ́ктар фа́брыкі, ша́хты

**operetta** [ˌɑ:pəˈretə] n., pl. **-tas** апэрэ́та *f.*

**opinion** [əˈpɪnjən] n. 1. пагля́д, по́гляд -у *m.*, меркава́ньне *n.*, ду́мка *f.*: ***in my opinion*** на маю́ ду́мку; ***in our opinion*** па-на́шаму. 2. ацэ́нка (*ду́мка, меркава́ньне пра каго́, што -н.*): ***to have poor opinion of*** быць невысо́кай ду́мкі аб *кім-чым*. 3. ду́мка, выснова спэцыялі́ста (*напр. ле́кара*); прафэсі́йная пара́да, ра́да (*напр. адвака́та*); ***opinions differ*** аб гу́стах не спрача́юцца

**opinionated** [əˈpɪnjəneɪtəd] adj. ду́мны, упа́рты або́ зана́дта саманадзе́йны (*у сваі́х по́глядах*); дагматы́чны

**opium** [ˈoʊpiəm] n. о́піюм -у *m.*

**opponent** [əˈpoʊnənt] – n. праці́ўнік -а *m.*, праці́ўніца *f.*; апанэ́нт -а *m.*, апанэ́нтка *f.*

– adj. які́ супрацьстаі́ць *або́* супраціўля́ецца

**opportune** [ˌɑ:pərˈtu:n] n. 1. шчасьлі́вы, адпаве́дны; спрыя́льны: ***at a most opportune moment*** у найбо́льш адпаве́дны мо́мант

**opportunism** [ˌɑ:pərˈtu:nˌɪzəm] n. апартуні́зм -у *m.*

**opportunist** [ˌɑ:pərˈtu:nɪst] n. апартуні́ст -а *m.*, апартуні́стка *f.*

**opportunity** [ˌɑ:pərˈtu:nəti] n. наго́да *f.*, зру́чны вы́падак: ***to take the opportunity of*** скарыста́ць з наго́ды

**oppose** [əˈpoʊz] v. 1. быць супро́ць *каго́-чаго́*, змага́цца з *кім-чым*, перашкаджа́ць; супраціўля́цца *каму́-чаму́*: ***to oppose the death penalty*** высту́паць супро́ць ка́ры сьме́рці. 2. супрацьста́віц|ь (-ца) *каму́-чаму́*: ***to oppose good nature to anger*** су́працьпаста́віць лаго́днасьць зло́сьці. 3. быць кантра́стам

**opposite** [ˈɑ:pəzɪt] – adj. 1. супрацьле́жны, супрацьле́глы; які́ стаі́ць насу́праць: ***the house opposite to ours*** дом, які́ стаі́ць насу́праць на́шага. 2. адваро́тны: ***Sour is opposite to sweet*** Кі́слы смак адваро́тны сало́дкаму

– n. супрацьле́гласьць, супрацьле́жнасьць, адваро́тнасьць *f.*

– prep. насу́праць *каго́-чаго́*: ***opposite the church*** насу́праць царквы́

**opposition** [ˌɑ:pəˈzɪʃən] n. 1. супрацьстаўле́ньне *n.*, супраці́ў -ву *m.* 2. супрацьле́гласьць *f.*, кантра́ст -у *m.*: ***His views were in opposition to mine*** Яго́ныя по́гляды былі́ супрацьле́глымі маі́м. 3. апазы́цыя *f.* (*у парля́мэнце*)

**oppress** [əˈpres] v. 1.уціска́ць, прыгнята́ць *каго́*; зьдзе́квацца з *каго́*. 2. гнясьці́, прыгнята́ць

**oppressed** [əˈprest] adj. пад уці́скам, пад прыгнётам, прыгне́чаны

**oppression** [əˈpreʃən] n. 1. уці́ск, зьдзек -у *m.*, прасьле́даваньне *n.* 2. прыгне́чанасьць *f.*

**oppressive** [əˈpresɪv] adj. 1. прыгнята́льніцкі, суро́вы; несправядлі́вы, дэспаты́чны. 2. гнятлі́вы, цяжкі́

**oppressor** [əˈpresər] n. прыгнята́льнік -а *m.*

**optic** [ˈɑ:ptɪk] adj. во́чны; зро́кавы

**optical** [ˈɑ:ptɪkəl] adj. 1. во́чны; зро́кавы: ***an optical defect*** дэфэ́кт зро́ку. 2. апты́чны: ***A telescope is an optical instrument*** Тэлеско́п — гэ́та апты́чная прыла́да

**optician** [ɑ:pˈtɪʃən] n. о́птык -а *m.*

**optics** [ˈɑ:ptɪks] n. о́птыка *f.*

**optimism** [ˈɑ:ptɪˌmɪzəm] n. аптымі́зм -у *m.*

**optimist** [ˈɑ:ptɪmɪst] n. аптымі́ст -а *m.*, аптымі́стка *f.*

**optimistic** [ˌɑ:ptɪˈmɪstɪk] adj. аптымісты́чны

**option** [ˈɑ:pʃən] n. вы́бар -у *m.*, пра́ва вы́бару

**optional** [ˈɑ:pʃənəl] adj. да́дзены на вы́бар; неабавязко́вы, адво́льны

**optometrist** [ɑ:pˈtɑ:mətrɪst] n. акулі́ст -а *m.*

**opulence** [ˈɑ:pjələns] n. 1. бага́цьце *n.* 2. замо́жнасьць *f.*, даста́т|ак -ку *m.*

**opulent** [ˈɑ:pjələnt] adj. бага́ты, замо́жны; у даста́тку

**or** [ɔ:r] conj. або́, а́льбо: ***You can go or stay*** Мо́жаце ісьці́ або́ заста́цца. 2. а то, іна́кш, іна́чай: ***Hurry, or you will be late*** Сьпяша́йся, а то спо́зьнісься. 3. або́, гэ́та зна́чыць: ***This is the end or last part*** Гэ́та кане́ц, гэ́та зна́чыць апо́шняя ча́стка

**oracle** [ˈɔ:rəkəl] n. 1. ара́кул -а *m.* 2. ве́льмі разу́мны чалаве́к, бяспрэ́чны аўтарытэ́т. 3. праро́цтва *n.*, прадказа́ньне *n.*

**oracular** [ɔ:ˈrækjələr] adj. 1. праро́чы; як ара́кул. 2. двухсэ́нсавы, няя́сны, зага́дкавы. 3. ве́льмі разу́мны

**oral** [ˈɔ:rəl] adj. 1. ву́сны (*напр. экза́мэн*). 2. Med. стаматалягі́чны, ро́тавы: ***oral medicine*** гігіе́на ро́та

**orally** [ˈɔ:rəli] adv. 1. ву́сна. 2. ро́там, ву́снамі, праз ву́сны, праз рот: ***The medicine was taken orally*** Лек быў пры́нятьы праз рот

**orange** [ˈɔ:rɪndʒ] – n. 1. ара́нжык -а *m.*, апэльсі́н -а *m.* (*плод і дрэ́ва*). 2. ара́нжавы ко́лер

– adj. 1. ара́нжавы (*пра ко́лер*). 2. апэльсі́навы (*пра сок*)

**oration** [əˈreɪʃən] n. урачы́стая прамо́ва

**orator** [ˈɔ:rətər] n. ара́тар -а *m.*

**oratorical** [ˌɔ:rəˈtɔ:rɪkəl] adj. ара́тарскі: ***an oratorical contest*** ара́тарскі ко́нкурс, ко́нкурс ара́тараў; ***an oratorical manner*** ара́тарская мане́ра

**oratory** [ˈɔ:rətɔ:ri] n., pl. **-ries** 1. красамо́ўства *n.*, майстэ́рства ара́тара. 2. рыто́рыка *f.*

**orb** [ɔ:rb] n. 1. ку́ля *f.*, шар -а *m.* 2. нябе́снае це́ла (*як со́нца, ме́сяц*). 3. Poet. во́ка *n.*, во́чны я́блык

**orbit** [ˈɔ:rbət] – n. 1. арбі́та *f.* 2. сфэ́ра дзе́яньня. 3. вачні́ца *f.*

– v. 1. круці́цца на арбі́це. 2. выхо́дзіць на арбі́ту (*пра спадаро́жнік*)

**orchard** [ˈɔ:rtʃərd] n. сад -у *m.*

**orchestra** [ˈɔ:rkɪstrə] n. 1. арке́ст|ар -ру *m.* 2. ме́сца для арке́стру (*перад сцэ́най*). 3. партэ́р -а *m.* (*у тэа́тры*)

**ordeal** [ɔ:rˈdi:əl] n. выпрабава́ньне *n.*; му́ка *f.*, паку́та *f.*

**order** [ˈɔ:rdər] – n. 1. пара́д|ак -ку *m.*, пасьлядо́ўнасьць *f.*: ***in alphabetical or-***

***der*** у альфабэ́тным пара́дку; ***to count in order*** лічы́ць па пара́дку. 2. пара́д|ак -ку *m.*, спра́ўнасьць *f.*: ***to put a room in order*** спара́дкаваць пако́й; прыве́сьці пако́й у пара́дак; ***to get out of order*** папсава́цца; ***in good order*** у до́брай спра́ўнасьці. 3. пара́д|ак -ку *m.*, спако́|й -ю *m.*; ***to keep order*** захо́ўваць пара́дак; ***to call to order*** а) закліка́цьда пара́дку. б) адкры́ць пасе́джаньне. 4. пара́д|ак -ку (*вядзе́ньня схо́ду*), рэглямэнт -у *m.*: ***order of business, order of the day*** пара́дак дня. 5. зага́д -у *m.*; кама́нда *f.*, нака́з -у *m.*: ***under the orders of ...*** пад кама́ндай ...; ***the order of the captain*** капіта́наў зага́д. 6. ***postal money order*** пашто́вы переводо́д. 7. замо́ва, зака́з -у *m.*: ***made to order*** зро́блены на зака́з. 8. Zool., Bot. атра́д -у *m.* (*грызуно́ў, матылёў*). 9. пласт -у, сло|й -ю *m.*: ***all orders of society*** усе́ пласты́ грама́дзтва. 10. духо́ўны сан; ры́царскі *або́* мана́скі о́рдэн: ***to take holy orders*** прыня́ць духо́ўны сан; ***in holy orders*** у духо́ўным са́не. 11. о́рдэн -а *m.* (*знак узнаго́роды*). 12. о́рдэр -у *m.* (*стыль у архітэкту́ры*): ***the Doric order*** дары́чны ордэр

– v. 1. пара́дкаваць; ула́джваць: ***to order one's affairs*** ула́дзіць свае́ спра́вы. 2. зага́дваць *каму́*, кама́ндаваць *кім*. 3. зака́зваць, заказа́ць; ***order about*** or ***around*** кама́ндаваць *кім*, папіха́ць *каго́*

• ***by order*** зго́дна з зага́дам

• ***in order*** а) у пара́дку. б) які́ спра́ўна працу́е

• ***in order that*** каб; з тым, каб; дзе́ля таго́, каб

• ***made to order*** зро́блена на зака́з

• ***out of order*** не ў пара́дку; сапсу́ты

**orderly** [ˈɔ:rdərli] – adj. 1. у пара́дку; акура́тны, аха́йны. 2. дысцыплінава́ны

– n. , pl. **-lies** ардына́р|ац -ца *m.* (*у во́йску*); саніта́р -а *m.* (*у шпіталі́*)

**ordinal** [ˈɔ:rdənəl] – adj. пара́дкавы: ***ordinal number*** пара́дкавы ну́мар

– n. пара́дкавы лічэ́бнік

**ordinarily** [ˌɔ:rdənˈerəli] adv. 1. звыча́йна. 2. рэгуля́рна

**ordinary** [ˈɔ:rdəneri] – adj. 1. звыча́йны. 2. пасрэ́дны, нецíка́вы: ***The speech was ordinary and tiresome*** Прамо́ва была́ нецíка́вая і ўто́мная

– n. ***out of the ordinary*** незвыча́йны

**ordination** [ˌɔ:rdənˈeɪʃən] n. пасьвячэ́ньне ў духо́ўны сан; рукапалажэ́ньне *n.* (*у сан сьвятара́*)

**ore** [ɔ:r] n. руда́ *f.*: ***gold ore*** залата́я руда́

**organ** [ˈɔ:rgən] n. 1. арга́н -а *m.*, арга́ны *pl. only* (*і электры́чныя*); ***mouth organ*** губны́ гармо́нік. 2. о́рган -а *m.* а) ***organs of speech*** о́рганы мо́вы. б) о́рган -у (*устано́ва*) *f.*: ***A court is an organ of government*** Суд ёсьць ура́давым о́рганам. в) о́рган (*газэ́та або́ ча́сапіс яко́й-н. па́ртыі або́ арганіза́цыі*): ***daily organs of the press*** штодзённыя о́рганы дру́ку

**organic** [ɔ:rˈgænɪk] adj. 1. арганíчны: ***Starch is an organic compound*** Крухма́л — арганічнае рэ́чыва. 2. арганíчны, нутраны́; непары́ўна зьвя́заны з чым-н.: ***Canada is an organic whole, made up of ten provinces*** Кана́да — гэ́та арганíчная цэ́ласьць, што склада́ецца зь дзесяцí правíнцыяў

**organism** [ˈɔ:rgəˌnɪzəm] n. арганíзм -у *m.*

**organist** [ˈɔ:rgənɪst] n. арганíст -а *m.*

**organization** [ˌɔ:rgənəˈzeɪʃən] n. 1. арганіза́цыя *f.*, аб'ядна́ньне людзе́й. 2. арганізава́ньне, нала́джаньне *n.*, арганіза́цыя *f.* 3. ула́джаньне *n.*, будо́ва, канстру́кцыя *f.*: ***The organization of the human body is very complicated*** Будо́ва чалаве́чага арганíзму ве́льмі складаная

**organize** [ˈɔ:rgənaɪz] v. 1. ла́дзіць; рабíць; арганізо́ўваць (*банке́т, экспэды́цыю*). 2. арганізо́ўваць (*аб'е́днаньне, па́ртыю*)

**organized** [ˈɔ:rgənaɪzd] adj. арганізава́ны

**organizer** [ˈɔ:rgənaɪzər] n. арганіза́тар -а *m.*

**parallel** [ˈpærəlel] – adj. 1. паралéльны; Geogr. шыры́нны. 2. падóбны да чагó-н., аналягíчны: ***parallel instance*** аналягíчны вы́падак
– n. 1. паралéльная лíнія *абó* павéрхня, паралéль *f.* 2. Geogr. паралéль *f.* 3. адпавéднасьць, аналёгія *f.* 4. параўнáньне *n.*: ***To draw a parallel between this winter and last winter*** Правéсьці параўнáньне памíж гэ́тай і лéташняй зíмамі. 5. Electr. паралéльнае злучэ́ньне
– v. 1. быць паралéльным, прахóдзіць паралéльна да чагó-н.: ***The street parallels the railway*** Вýліца ідзé паралéльна да чыгýнкі. 2. адпавядáць. 3. параўнóўваць

**paralysis** [pəˈræləsɪs] n., pl. **-ses** (-sez) парáлюш, парáліч -у *m.*

**paralytic** [ˌpærəˈlɪtɪk] – adj. 1. паралітычны (*прыпáдак*). 2. паралізавáны
– n. паралíтык -а *m.*

**paralyze**, Brit. **paralyse** [ˈpærəlaɪz] v. паралізавáць

**paramount** [ˈpærəmaʊnt] adj. першарáдны, надзвычáйны (*мэ́та, значэ́ньне*)

**paranoia** [ˌpærəˈnɔɪə] n. паранóя *f.*

**paranoiac** [ˌpærəˈnɔɪæk] – n. паранóік -а *m.*; хвóры на паранóю
– adj. паранаíчны

**parapet** [ˈpærəpɪt] n. 1. парапэ́т -а *m.*, (*невысóкая сьцянá, агарóджа ўздóўж балькóну, страхí*). 2. вал -у, нáсып -у *m.* (*для ахóвы ад вóрага*)

**paraphrase** [ˈpærəfreɪz] – v. перакáзваць, перафразóўваць
– n. перакáз -у *m.*, парафрáза *f.*

**parasite** [ˈpærəsaɪt] n. паразы́т -а *m.*, паразы́тка *f.*; дармаéд -а *m.*

**parasitic(al)** [ˌpærəˈsɪtɪkəl] adj. 1. паразы́тны (*пра расьлíны, чэ́рві*). 2. паразытычны. 3. паразытáрны (*пра захвóрваньні*)

**parasol** [ˈpærəsɔ:l] n. парасóн -а *m.* (*ад сóнца*)

**paratroops** [ˈpærətru:ps] n., pl. дэсáнтныя вóйскі

**parcel** [ˈpɑ:rsəl] – n. 1. пакýн|ак, клýн|ак -ка *m.*, пáчка *f.* 2. дзялянка *f.*: ***a parcel of land (forest)*** дзялянка зямлí (лéсу). 3. грýпа *f.*; кýча, бáнда *f.*: ***a parcel of scamps*** бáнда нягóднікаў
– v., **-celed, celed** or (esp. Brit.) **-celled, -celling** пакавáць (*у пáчку*). 2. ***to parcel out*** дзялíць на дзялянкі, раздавáць дзялянкі, чáсткі

**parch** [pɑ:rtʃ] v. 1. лёгка падсмáжваць, прáжыць (*ячмéнь, кукурýзу*), сушы́ць . 2. палíць, пячы́ (*пра сóнца*), выклікáць смáгу. 3. перасыхáць (*пра рот, гóрла*), сьмягнуць (*пра вýсны*): ***parched lips*** пасьмяглыя вýсны

**parchment** [ˈpɑ:rtʃmənt] n. 1. пэргáмэнт -у *m.* 2. старажы́тны рýкапіс, пíсаны на пэргáмэнце. 3. абгóртачная, пэргáмэнтная папéра

**pardon** [ˈpɑ:rdən] – n. 1. даравáньне *n.* 2. выбачэ́ньне *n.* 3. памíлаваньне *n.* (*вызвалéньне асýджанага ад каpáньня*)
– v. 1. даравáць. 2. выбачáць: ***pardon (me)*** выбачáйце 3. памíлаваць

**pardonable** [ˈpɑ:rdənəbəl] adj. даравáльны; выбачáльны, прабачáльны

**pare** [per] v. 1. абразáць, зразáць; абірáць (*бýльбіну, я́блык*). 2. адразáць
• ***pare down*** уразáць; скарачáць: ***to pare down expenses*** скарацíць выдáткі

**parent** [ˈperənt] n. 1. бáцьк|а -і *m.* *абó* мáці *f., indecl.* **parents** бацькí *pl.* 2. першапачáт|ак -ку *m.*, крынíца, прычы́на *f.*: ***Envy is the parent of hate*** Зáйздрасьць — крынíца нянáвісьці

**parentage** [ˈperəntɪdʒ] n. 1. пахóджаньне (*ад бацькóў*), лíнія рóднасьці, радавóд -у *m.* 2. бацькóўства, мацяры́нства *n.*

**parental** [pəˈrentəl] adj. бацькóўскі

**parent company** галóўная фíрма, якáя кантралю́е падлéглыя сабé фíрмы

**parenthesis** [pəˈrenθəsɪs] n., pl. **-ses** 1. пабóчнае слóва, пабóчны сказ. 2. крýглыя дýжкі

**parenthesize** [pəˈrenθəsaɪz] v.t. 1. браць у дýжкі. 2. устаўляць пабóчнае слóва *абó* пабóчны сказ. 3. зазначáць, заўважáць мімахóдзь, збóку

**parenthetic** [ˌpærənˈθetɪk] adj. 1. азнача́льны, вытлумача́льны (*сказ або́ сло́ва*). 2. узя́ты ў ду́жкі. 3. пабо́чны

**parenthood** [ˈperənthʊd] n. бацько́ўства, мацяры́нства *n.*

**pariah** [pəˈraɪə] n. 1. ізго́й -я, выгна́нец -ца *m.* 2. па́рыя -і *m.*

**parietal** [pəˈraɪətəl] n., Anat. цемянная косьць

**paring** [ˈperɪŋ] n. 1. абрэ́зкі; лупі́ны *pl.* кара́ *f.* 2. абіра́ньне, абрэ́званьне лупі́наў; зьдзіра́ньне кары́

**parish** [ˈpærɪʃ] n. 1. пара́фія *f.*; прыхо́д -у *m.* (*царко́ўны*). 2. парафія́не *pl.* 3. адміністрацы́йная акру́га

**parishioner** [pəˈrɪʃənər] n. парафія́нін -а *m.*, парафія́нка *f.* (*у каталіко́ў*); прыхаджа́нін -а *m.*, прыхаджа́нка *f.* (*у праваслаўных*)

**Parisian** [pəˈrɪʒən] – adj. пары́скі
– n. парыжа́нін -а *m.*, парыжа́нка *f.*

**parity** [ˈpærəti] n. ро́ўнасьць *f.*; падабе́нства *або́* адпаве́днасьць у які́х-н. адно́сінах

**park** [pɑ:rk] – n. 1. парк -у *m.* (*гарадзкі́*). 2. запаве́днік -у *m.* 3. парк -у *m.* (*аўтамабі́льны, трамва́йны*)
– v.t. 1. паркава́ць (*аўтамабі́ль*). 2. ста́віць у парк (*вайско́вы тра́нспарт, артыле́рыю*). 3. Informal ста́віць, пакіда́ць

**parking lot** парко́ўка, стая́нка аўтамабі́ляў

**parking meter** аўтама́т для апла́ты за паркава́ньне

**parking ticket** штраф за нелега́льнае паркава́ньне

**parkway** [ˈpɑ:rkweɪ] n. 1. але́я *f.* 2. даро́га (*до́браўпара́дкаваная па маляўні́чых вако́ліцах*). 3. аўтастра́да *f.*

**parliament** [ˈpɑ:rləmənt] – n. парлямэ́нт -у *m.*
– adj. парля́мэнцкі

**parliamentarian** [ˌpɑ:rləmenˈteriən] n. парлямэнта́рый -я *m.*

**parliamentary** [ˌpɑ:rləˈmentəri] adj. парля́мэнцкі (*палíты́чны лад*)

**parlor**, Brit. **parlour** [ˈpɑ:rlər] n. 1. гасьцёўня *f.*; гасьці́ны пако́й, агу́льны пако́й. 2. атэлье́ *n., indecl.*, кабінэ́т -у *m.*: ***a beauty parlor*** салён прыгажо́сьці, касмэты́чны кабінэ́т; ***parlor car*** пасажы́рскі ваго́н з выго́дамі

**Parmesan** [ˈpɑ:rməzɑ:n] n. пармэза́н -а *m.* (*гату́нак італьянскага сы́ру*)

**parochial** [pəˈroʊkiəl] adj. 1. парафія́льны (*напр. шко́ла*). 2. абмежава́ны, ву́зкі: ***a parochial viewpoint*** абмежава́нае гле́дзішча

**parodist** [ˈpærədɪst] n. пароды́ст -а *m.*

**parody** [ˈpærədi] – n., pl. **-dies** паро́дыя *f.*
– v.t. **-died, -dying** 1. рабі́ць паро́дыю, пацьве́льваць з чаго́-н. 2. няўда́ла перайма́ць

**parole** [pəˈroʊl] – n. 1. умо́ўнае вызвале́ньне з турмы́. 2. сло́ва го́нару
– v.t. выпуска́ць умо́ўна (*вя́зьня*)

**parquet** [pɑ:rˈkeɪ] – n. 1. парке́т -у *m.*, парке́тная падло́га. 2. партэ́р -у *m.* (*у тэа́тры*)
– v.t. кла́сьці парке́т

**parrot** [ˈpærət] – n. папуга́й -я *m.*
– v. папуга́йнічаць, паўтара́ць, як папуга́й

**parry** [ˈpæri] – v., **-ried, -rying** адбіва́ць (*уда́р*), ухіля́цца (*ад уда́ру, ад пыта́ньняў*), пары́раваць
– n. адбіва́ньне, ухіле́ньне *n.*

**parsley** [ˈpɑ:rsli] n., pl. **-leys** пятру́шка *f.*

**parsnip** [ˈpɑ:rsnɪp] n. пастарна́к -у *m.*

**part** [pɑ:rt] – n. 1. ча́стка *f.*: a) ***He ate part of an apple*** Ён зьеў ча́стку я́блыка; ***western part of the country*** захо́дняя ча́стка края́ю. б) ***A radio has many parts*** Ра́дыё склада́ецца са шматлі́кіх ча́стак; ***spare parts*** запасны́я ча́сткі (*мэхані́зму*). 2. удзе́л -у *m.*; нале́жная ча́стка чаго́-н., до́ля *f.*; абавя́зак -ку *m.*: ***to take part in*** браць удзе́л; ***Everyone must do his part*** Ко́жны му́сіць выко́нваць сваю́ до́лю; ***I have done my part*** Я зрабі́ў сваю́ ча́стку. 3. бок -у *m.* (*у дыску́сіі*): ***He always takes his brother's part*** Ён заўсёды стаі́ць на бра́тавым баку́. 4. ро́ля *f.* (*у п'е́се ці ў жыцьці́*): ***to play a part*** гра́ць ро́-

лю. 5. прабо́р, прадзе́л -а, рад|ок -ка́ *m.* (*у валасо́х*). 6. Mus. па́ртыя *f.* а) адзі́н з галасо́ў *або́* інструмэ́нтаў: ***The four parts in singing are soprano, alto, tenor and bass*** Чаты́ры галасы́ ў сьпе́ве — сапра́на, а́льт, тэ́нар і бас. б) но́ты для аднаго́ го́ласу *або́* інструмэ́нту. 7. часьці́на *f.*: ***part of speech*** часьці́на мо́вы

– v. 1. дзялі́ць на ча́сткі. 2. разьдзяля́ц|ь (-ца). 3. расстава́цца; разыхо́дзіцца: ***They parted in anger*** Яны́ разыйшлі́ся ў зло́сьці. 4. расчэ́сваць валасы́ на радо́к

– adj. няцэ́лы, няпо́ўны

– adv. у не́йкай ме́ры, у не́йкай ступе́ні; частко́ва

• ***for my part*** or ***on the part of me*** з майго́ бо́ку, што датычыцца мяне́, што да мяне́

• ***in part*** частко́ва

• ***on (for) the most part*** перава́жна, у бо́льшасьці

• ***part from*** расста́цца, разыйсьці́ся з *кім*

• ***part with*** адмо́віцца ад *чаго́*, пакі́нуць *што*

• ***take part*** браць або́ мець удзе́л у чым-н.

**partake** [pɑːrˈteɪk] v., **-took, -taken, -taking** 1. браць удзе́л у чым-н., далуча́цца, удзе́льнічаць у чым-н. 2. пачастава́цца, зье́сьці, вы́піць чаго́-н.: ***We are eating lunch, will you partake?*** Мы палу́днуем, ці і вы не далу́чыцеся?

**partial** [ˈpɑːrʃəl] adj. 1. няпо́ўны, частко́вы: ***a partial eclipse*** частко́вае зацьме́ньне. 2. небесstaро́нны, неаб'екты́ўны, прадузя́ты; які́ ма́е сла́басьць, ця́гу да каго́-чаго́-н.: ***He is partial to sports*** Спо́рт — яго́ная сла́басьць

**partiality** [ˌpɑːrʃiˈæləti] n. **-ties** 1. небесstaро́ннасьць, неаб'екты́ўнасьць, прадузя́тасьць *f.* 2. сла́басьць, схі́льнасьць *f.*

**participant** [pərˈtɪsɪpənt] n. удзе́льнік -а *m.*, удзе́льніца *f.*

**participate** [pɑːrˈtɪsɪpeɪt] v.i. удзе́льнічаць; браць удзе́л у чым-н.: ***He participated in the discussion*** Ён бра́ў удзе́л у дыску́сіі

**participation** [pɑːrˌtɪsɪˈpeɪʃən] n. удзе́л, саўдзе́л -у *m.*

**participator** [pɑːrˌtɪsɪpeɪtər] n. удзе́льнік, саўдзе́льнік -а *m.*

**participial** [pɑːrtəˈsɪpiəl] adj., Gram. дзеепрыме́тны: ***a participial adjective (noun)*** дзеепрыме́тны прыме́тнік (назо́ўнік)

**participle** [ˈpɑːrtəsɪpəl] n., Gram. дзеепрыме́тнік -а *m.*

**particle** [ˈpɑːrtɪkəl] n. 1. часьці́нка, крупі́нка *f.*: ***a particle of dust*** пылі́нка *f.* 2. Gram. часьці́ца *f.*

**particular** [pərˈtɪkjələr] – adj. 1. асо́бны; спэцыфі́чны: ***That particular chair is already sold*** Якра́з то́е крэ́сла ўжо́ прада́дзенае. 2. асаблі́вы, незвыча́йны, спэцыфі́чны: ***a particular friend*** асаблі́вы, ве́льмі блі́зкі ся́бра. 3. перабо́рлівы (*у е́жы*); патрабава́льны, дакла́дны. 4. падрабя́зны, грунто́ўны: ***a particular account*** падрабя́зная справазда́ча

– n. дэта́ль *f.*, пункт -у *m.*

• ***in particular*** асаблі́ва

**particularity** [pərˌtɪkjəˈlærəti] n., pl. **-ties** 1. падрабя́знасьць, грунто́ўнасьць *f.* 2. асаблі́вая дба́йнасьць, ру́пнасьць *f.* 3. дро́бязная ўва́жлівасьць. 4. асаблі́вая ры́са, асаблі́васьць *f.* 5. перабо́рлівасьць, патрабава́льнасьць *f.*

**particularly** [pərˈtɪkjələrli] adv. 1. асаблі́ва, у асаблі́васьці. 2. падрабя́зна, грунто́ўна. 3. у прыва́тнасьці

**parting** [ˈpɑːrtɪŋ] – n. ад'е́зд, вы́езд -у *m.*; расстава́ньне, расста́ньне *n.* 2. разьдзяле́ньне: ***parting of the roads*** ро́стань *f.*, раздаро́жжа *n.* 3. прабо́р, прадзе́л -у *m.* (*у валасо́х*)

– adj.1.разьвіта́льны. 2. які́ ад'язджа́е. 3. які́ разьдзяля́е

**partisan** [ˈpɑːrtəzən] – n. 1. прыхі́льнік -а *m.*, прыхі́льніца *f.* 2. партыза́н -а *m.*, партыза́нка *f.*

– adj. 1. фанаты́чны, які́ сьле́па ве́рыць. 2. партыза́нскі

**partition** [pɑːrˈtɪʃən] – n. 1. разьдзе́л -у *m.* (*маёмасьці*), падзе́л -у *m.*: ***partition of a country into provinces*** падзе́л краíны на правíнцыі. 2. ча́стка *f.* 3. а) перагаро́дка *f.* (*у ша́фе і ў пакóі*). б) перасьце́н|ак -ка *m.*, пераборка *f.* (*у пакóі*)

– v. 1. падзяля́ць на ча́сткі, разьдзяля́ць: ***to partition an empire among ...*** падзялíць імпэ́рыю памíж ...; ***to partition a house into rooms*** падзялíць дом на пакóі. 2. перагарадзíць перасьце́нкам (*пакóй*)

**partly** [ˈpɑːrtli] adv. часткóва

**partner** [ˈpɑːrtnər] n. 1. удзе́льнік, саўдзе́льнік -а *m.*: ***My sister was a partner in my sorrow*** Мая́ сястра́ падзяля́ла маё го́ра. 2. а) кампаньён, супóльнік -а *m.*, супóльніца *f.* (*у фíрме ці кампа́ніі*). б) напа́рнік -а *m.*, напа́рніца *f.* (*у спра́ве*). 3. партнэ́р -а *m.*, партнэ́рка *f.* (*у та́нцы, гульні́*)

**partnership** [ˈpɑːrtnərʃɪp] n. 1. супóльніцтва, партнэ́рства, напа́рніцтва, тавары́ства *n.* 2. сябрóўства *n.*

**part of speech** часьці́на мóвы (*як назóўнік, дзеясло́ў*)

**partridge** [ˈpɑːrtrɪdʒ] n., pl. **-tridges** or (esp. coll.) **partridge** курапа́тка *f.*

**part time** няпóўны працóўны дзень

**part-time** [ˌpɑːrtˈtaɪm] adj. зь няпóўнай працóўнай нагру́зкай: ***a part-time worker*** рабóтнік, які́ працу́е няпóўны працóўны дзень

**party** [ˈpɑːrti] n., pl. **-ties** 1. па́ртыя *f.*: ***The Liberal, Conservative or New Democratic Party*** Па́ртыя Лібэ́ралаў, Кансэрва́тараў абó Нóвадэмакра́таў. 2. гру́па людзе́й, тавары́ства *n.*: ***a wedding party*** вясе́льнае тавары́ства. 3. тавары́скі ве́чар, вечары́нка: ***a birthday party*** вечары́нка з нагóды дня нарóдзінаў. 4. саўдзе́льнік -а, памага́т|ы -ага *m.*: ***He was a party to our plot*** Ён быў памага́тым у на́шай змóве. 5. бок -у *m.*: ***the parties to a contract*** бакí кантра́кту

**parvenue** [ˈpɑːrvənuː] n. вы́скачк|а -і *m.* & *f.*, парвэню́, *m., indecl.*

**pass** [pæs] – v., **passed, passed** or **past** 1. прахóдзіць паўз *што*; праяжджа́ць, міна́ць: ***Many people pass our house every day*** Шмат людзе́й прахóдзіць паўз на́ш дóм штодня́; ***The parade passed*** Прайшóў пара́д; ***We passed the street*** Мы прае́халі ву́ліцу. 2. а) перадава́ць, падава́ць: ***Read this and pass it on*** Прачыта́й гэ́та і перада́й дале́й; ***Pass the salt, please!*** Калí ла́ска, пада́йце соль! б) перахóдзіць: ***His farm passed to his children*** Ягóная гаспада́рка перайшла́ да дзяце́й. 3. здава́ць: ***to pass the examination*** здаць экза́мен. 4. а) прыма́ць, правóдзіць (*закóн, рэзалю́цыю*): ***to get a bill passed*** пра́весьці законапрае́кт. б) правóдзіць, ба́віць час: ***We passed the days happily*** Мы ве́села правóдзілі дні. 5. перахóдзіць: а) ***Water passes from a liquid to a solid state when it freezes*** Вада́ перахóдзіць з ва́дкага ста́ну ў цьвёрды, калí замярза́е; ***Money passes from person to person*** Гро́шы хóдзяць з рук у ру́кі. 6. прапуска́ць: ***to pass an insult*** не зварача́ць ува́гі на абра́зу. 7. перадава́ць: ***to pass the ball*** падава́ць мяч, пасава́ць. 8. (*у гульні́ ў ка́рты*), пасава́ць

– n. 1. прахóд -у *m.* 2. зда́ча экза́мэну без адзнакí. 3. прóпуск -у *m.*; бясплáтны біле́т. 4. фóкус штукара́. 5. ву́зкая дарóга, сьце́жка *f.*, цясьні́на ў гара́х. 6. пас -у *m.* (*у гульні́ ў ка́рты*). 7. Informal залёты *pl.* 8. стан -у *m.*, станóвішча *n.*, сытуа́цыя *f.*: ***Things have come to a strange pass*** Спра́вы дайшлí да дзíўнага ста́ну

• ***pass away*** а) скóнчыцца. б) паме́рці

• ***pass by*** не заўва́жыць; прайсьці́ мíма; прагле́дзець, ня ўзя́ць пад ува́гу

• ***pass each other*** разьміну́цца

• ***pass for*** лічы́цца *кім-чым*, удава́ць сябе́ за *кагó*

• ***pass on*** а) перадава́ць (*адно́ адна-му́*). б) паме́рці

• ***pass out*** а) Informal самле́ць, стра́ціць прыто́мнасьць. б) раздава́ць (*улёткі*), пашыра́ць (*газэ́ту*)

• ***pass up*** а) адмо́віцца ад *чаго́*. б) не скарыста́ць з наго́ды, прапусьці́ць зру́чны мо́мант

**passable** [ˈpæsəbəl] adj. 1. до́сыць до́бры, пасрэ́дны, магчы́мы: ***a passing knowledge of geography*** до́сыць до́брыя ве́ды з геагра́фіі. 2. прахо́дны; прае́зны (*пра даро́гу*); суднахо́дны (*пра раку́*). 3. ужыва́ны, дзе́йны: ***passable coin*** до́брая манэ́та (*цяпе́р ва ўжы́тку*). 4. які́ лёгка праве́сьці: ***a passable bill*** законапрае́кт магчы́мы для правядзе́ньня

**passably** [ˈpæsəbli] adv. даво́лі; до́сыць; нішто́

**passage** [ˈpæsɪdʒ] n. 1. прахо́д -у *m.*, калідо́р -а *m.* 2. се́ні, *pl. only.* 3. уры́вак -ўка *m.*, абза́ц -а *m.* 4. падаро́жжа мо́рам. 5. біле́т на вадапла́ў: ***to secure a passage for Europe*** купі́ць біле́т на вадапла́ў у Эўро́пу. 6. пры-ня́цьце або́ правядзе́ньне законапрае́кту. 7. Mus. паса́ж -у *m.* 8. бо́йка на кулачкі́; сва́рка *f.*

**passenger** [ˈpæsɪndʒər] – n. пасажы́р -а *m.*, пасажы́рка *f.*

– adj. пасажы́рскі (*цягні́к*)

**passer-by** [ˌpæsərˈbaɪ] n., pl. **passers-by** прае́жджы, прахо́жы -ага *m.*, прахо́жая *f.*; міна́к -а́ *m.*

**passing** [ˈpæsɪŋ] – adj.1. міну́чы; нядо́ўгатрыва́лы. 2. мімалётны; выпадко́вы: ***a passing fancy*** мімалётнае захапле́ньне. 3. перахо́дны: ***a passing mark*** перахо́дная адзна́ка

– n.1. міна́ньне *n.*, адыхо́д, ад’е́зд -у *m.* 2. брод -у *m.* 3. сьмерць *f.*

• ***in passing*** між і́ншым, мімахо́дзь

**passion** [ˈpæʃən] n.1. а) ве́льмі мо́цнае пачуцьцё: ***Hate and fear are passions*** Няна́вісьць і страх — ве́льмі мо́цныя пачу́цьці. б) па́лкасьць, палымя́насьць, жарсьць *f.* 2. лю́тая злосьць, гнеў -ву *m.*: ***He flew into a passion*** Ён вы́бухнуў гне́вам. 3. па́лкае каха́ньне, жарсьць *f.* 4. мо́цнае захапле́ньне (*му́зыкай, спо́ртам*). 5. ***Passion*** Хрысто́выя му́кі, Па́сія *f.*

**passionate** [ˈpæʃənət] adj.1. а) па́лкі, палымя́ны: ***a passionate fighter*** па́лкі змага́р; ***a passionate speech*** палымя́ная прамо́ва. б) па́лкі, гара́чы (*пра каха́ньне*). 2. гара́чы, запа́льчывы, ху́ткі на зло́сьць, нястры́мны. 3. стра́сны: ***a passionate lover*** стра́сны каха́нак

**passionately** [ˈpæʃənətli] adv. 1. па́лка, палымя́на. 2. го́рача (*каха́ць*); нястры́мна, запальчы́ва

**passive** [ˈpæsɪv] – adj. 1. пасі́ўны, інэ́ртны, неакты́ўны, бязьдзе́йны, неэнэргі́чны. 2. пако́рны, пако́рлівы: ***The passive obedience of a slave*** Пако́рлівая паслухмя́насьць няво́льніка. 3. Gram. зале́жны: ***passive voice*** зале́жны стан

– n. зале́жны стан

**passivity** [pæsˈɪvəti] n. 1. пасі́ўнасьць, інэ́ртнасьць *f.* 2. бязьдзе́йнасьць; пасі́ўнае падпара́дкаваньне

**passport** [ˈpæspɔ:rt] n. 1. па́шпарт -а *m.*: ***passport office*** па́шпартны стол. 2. Figur. во́льная рука́, про́пуск, до́ступ -у *m.*

**password** [ˈpæswɜ:rd] n. паро́лЬ -я *m.*

**past** [pæst] – adj. 1. міну́лы: ***the past year*** міну́лы год. 2. былы́: ***a past president*** былы́ прэзыдэ́нт. 3. ско́нчаны: ***Our troubles are past*** На́шыя турбо́ты ско́нчыліся. 4. Gram. міну́лы: ***the past tense*** міну́лы час; ***a past participle*** дзеепрыме́тнік міну́лага ча́су

– n. міну́лае *n.*, міну́ўшчына *f.* а) ***far back in the past*** далёка ў міну́лым. б) ***Our country has a glorious past*** Наш край ма́е сла́ўную міну́ўшчыну; ***He was a man with a past*** Ён быў чалаве́кам зь міну́лым

– prep. 1. за; дале́й, як: ***past the line*** за лі́нію. 2. пасьля́: ***It is past noon***

Ужó пасьля́ паўдня́; ***half past two*** палóва трэ́цяе (*гадзі́ны*); ***The train is past due*** Цягнíк пóзьніцца. 3. звыш: ***past belief*** звыш вéры, не да вéры
– adv. мíма: ***He walked past*** Ён прайшóў мíма; ***The years flew past*** Гады́ праляцéлі

**pasta** [ˈpɑːstə] n. пáста *f.* (*мучны́я вы́рабы, як лóкшына, макарóны, спагéты*)

**paste** [peɪst] – n. 1. мучны́ клей. 2. а) здóбнае цéста. б) *гл.* **pasta**. 3. замéшаная глíна (*на ганчáрныя вы́рабы*). 4. страз -у *m.* (*штýчны кáмень*). 5. зубнáя пáста
– v. 1.наклéйваць, заклéйваць. 2. намáзваць клéем. 3. Sl. мóцна ўдáрыць

**pasteboard** [ˈpeɪstbɔːrd] – n. 1. кардóн -у *m.* 2. Sl. кáрта для ігры́. 3. Brit., Sl. а) візы́тная кáртка. б) білéт на цягнíк. в) квітlóк -ка *m.*
– adj. кардóнавы, кардóнны

**pasteurization** [ˌpæstʃərəˈzeɪʃən] n. пастэрызáцыя *f.*

**pasteurize** [ˈpæstʃəraɪz] v.t. пастэрызавáць (*малакó*)

**pastime** [ˈpæstaɪm] n. правядзéньне чáсу; занятlак -ку *m.*; забáва *f.*

**pastor** [ˈpæstər] n. 1. пáстар -а *m.* (*настая́цель пратэстáнцкае царквы́*); духóўны пáстыр. 2. пáстыр -а, пастýх -á *m.*

**pastoral** [ˈpæstərəl] – adj. 1. пастушы́ны, пастухóўскі. 2. ідылíчны: ***a pastoral scene*** ідылíчная сцэ́на зь сéльскага жыцьця́. 3. пáстырскі
– n. 1. іды́лія *f.* (*п'éса, паэ́ма, музы́чны твор абó карцíна зь сéльскага жыцьця́*). 2. пáстырскае *абó* біскупскае паслáньне

**past participle** дзеепрымéтнік мінýлага чáсу

**pastry** [ˈpeɪstri] n., pl. **-tries** пéчыва *n.*, пірóг пірагá *m.*

**pasture** [ˈpæstʃər] – n. 1. паплавы́ *pl.*; вы́ган -у *m.*; пáша *f.*
– v. пáсьвіць (*жывёлу*); пáсьвіцца (*пра жывёлу*)

**pat** [pæt] – v., **-tt-** 1. пля́скаць (*кавáлак цéста і пад.*) 2. ля́паць (*па плячы́*), глáдзіць: ***pat a dog*** паглáдзіць сабáку
– n. 1. паля́пваньне, глáджаньне *n.* 2. малы́ кавáлачак (*асабл. мáсла*)
• ***pat on the back*** пахвалá *f.*, кампліМэ́нт -у *m.*

**patch** [pætʃ] – n. 1. лáта, лáтка *f.*, лáпік -а *m.* (*на адзéньні, абýтку*). 2. пля́стыр (*на рáнцы*), павя́зка *f.*: ***eye patch*** павя́зка на вóка. 3. мýшка *f.* (*на жанóчым твáры*). 4. пля́ма *f.* 5. лáпік зямлí: ***a garden patch*** зямля́ пад гарóд
– v. 1. лáтаць (*падрáнае*). 2. ***to patch up*** а) залáдзіць свáрку. б) залáтаць, зрабíць на хýткую рукý.

**patchwork** [ˈpætʃwɜːrk] n. лáтаньне; пасшывáныя абрэ́зкі тканíны; кóўдра, дыванóк, зрóбленыя з такíх абрэ́зкаў

**patent** [ˈpætənt] – n. 1. патэ́нт -а *m.* 2. патэнтавáнае вынахóдзтва
– adj. 1. патэнтавáны. 2. [ˈpeɪtənt] відавóчны, я́ўны, я́сны. 3. [ˈpeɪtənt] адкры́ты, дастýпны
– v.t. а) брáць патэ́нт. б) давáць патэ́нт

**patentee** [ˌpætənˈtiː] n. улáсьнік патэ́нта

**patent leather** лáкавая скýра (*на чаравíкі*)

**paternal** [pəˈtɜːrnəl] adj. 1. бáцькаў; бацькóўскі (*ласкáвы*). 2. па бáцьку: ***a paternal aunt*** цётка па бáцьку; ***a paternal inheritance*** спáдчына па бáцьку

**paternally** [pəˈtɜːrnəli] adv. па-бацькóўску

**paternity** [pəˈtɜːrnəti] n. 1. бацькóўства *n.* 2. пахóджаньне па бáцьку

**path** [ˈpæθ] n., pl. **paths** 1. сьцéжка *f.* 2. трáса *f.*, маршрýт -у, кірýнlак -ку, шлях -у *m.*

**pathetic** [pəˈθetɪk] adj. 1. жáласны, жáласьлівы; вáрты жáлю, жалюгóдны. 2. пóўны пáтасу, усхваляванáны; хвалю́ючы, патэты́чны

**pathetic fallacy** увасабле́ньне прыро́ды, прыпі́сваньне рэ́чам або́ зья́вам людзкі́х пачу́цьцяў

**pathogenic** [ˌpæθəˈdʒenɪk] adj. хваробатво́рны, хваробано́сны (*мікро́б*)

**pathos** [ˈpeɪθɑ:s] n. 1. узды́м, запа́л -у *m.;* па́тас -у *m.* 2. што выклікае сум, шкадава́ньне або́ спага́ду

**patience** [ˈpeɪʃəns] n. 1. цярплі́васьць *f.* 2. насто́йлівасьць *f.* 3. пасья́нс -а *m.* (*гульня́ ў ка́рты*)

**patient** [ˈpeɪʃənt] – adj. 1. цярплі́вы. 2. насто́йлівы

– n. пацые́нт -а *m.*, хво́р|ы -ага *m.*, хво́рая *f.*

**patriarch** [ˈpeɪtriɑ:rk] n. патрыя́рх -а *m.*

**patriarchal** [ˌpeɪtriˈɑ:rkəl] adj. патрыярха́льны

**patriarchate** [ˈpeɪtriɑ:rkət] n. патрыярха́т -у *m.*

**patrician** [pəˈtrɪʃən] – n. 1. патры́цы|й -я *m.* (*у старажы́тным Ры́ме*). 2. арыстакра́т -а *m.*

– adj. 1. патрыцыя́нскі. 2. арыстакраты́чны

**patrimonial** [ˌpætrɪˈmoʊniəl] adj. атрыма́ны ў спа́дчыну ад бацько́ў

**patrimony** [ˈpætrəmoʊni] n., pl. **-nies** 1. спа́дчына. 2. царко́ўная *або́* манасты́рская маёмасьць

**patriot** [ˈpeɪtriət] n. патрыёт -а *m.*, патрыётка *f.*

**patriotic** [ˌpeɪtriˈɑ:tɪk] adj. патрыяты́чны.

**patriotism** [ˈpeɪtriətɪzəm] n. патрыяты́зм -у *m.*

**patrol** [pəˈtroʊl] – v., **-ll-** 1. аглядáць, выве́дваць. 2. ахо́ўваць пара́дак, сачы́ць за пара́дкам, патрулява́ць

– n. патру́л|ь -я́, дазо́р -у *m.*; разье́зд -у *m.*

– adj. патру́льны

**patrolman** [pəˈtroʊlmən] n., pl. **-men** 1. патру́льн|ы -ага *m.* 2. участко́в|ы -ага *m.*, паліцыя́нт, які́ патрулю́е раён

**patron** [ˈpeɪtrən] n. 1. ста́лы кліе́нт -а *m.* (*у кра́ме*); госьць, наве́днік (*у рэстара́не, гатэ́лі*). 2. патро́н, апяку́н апекуна́, шэф -а *m.*; мэцэна́т -а *m.* 3. сьвяты́ засту́пнік

**patronage** [ˈpeɪtrənɪdʒ] n. 1. ста́лая кліенту́ра, падтры́мка з бо́ку кліе́нтаў, пакупніко́ў *або́* наве́днікаў (*тэа́тру, галерэ́і*). 2. апяку́нства, шэ́фства, засту́пніцтва *n.*; ахо́ва *f.* 3. пабла́жлівае ста́ўленьне. 4. раздава́ньне паса́даў *або́* прывіле́яў. 5. паліты́чныя паса́ды, прывіле́і *pl.*

**patroness** [ˈpeɪtrənəs] n. патро́нка *f.*

**patronize** [ˈpeɪtrənaɪz] v. 1. быць ста́лым кліе́нтам, наве́днікам. 2. падтры́мваць, спрыя́ць, быць мэцэна́там (*маста́цтва, бале́ту*). 3. ста́віцца пабла́жліва

**patronymic** [ˌpætrəˈnɪmɪk] n. імя́ па ба́цьку.

**patter I** [ˈpætər] – v. 1. ша́стаць, шуршэ́ць ; бараба́ніць, шамаце́ць, біць; шо́ргаць: ***The rain patters on a windowpane*** Дождж б'е па шы́бах. 2. тупаце́ць, ту́паць: ***Bare feet pattered along the hard floor*** Бо́сыя но́гі тупаце́лі па цьвёрдай падло́зе

– n. тупаце́ньне *n.* (*ног*), шуршэ́ньне, шамаце́ньне *n.* (*дажджу́*)

**patter II** [ˈpætər] – n. 1. балбатня́ *f.* 2. гаво́рка *f.*, жарго́н -у *m.* (*напр. зладзе́йскі*). 3. скорагаво́рка *f.*

– v. ху́тка, бязду́мна гавары́ць, лапата́ць: ***Patter a prayer*** бязду́мна гавары́ць па́церы

**pattern** [ˈpætərn] – n. узо́р -у *m.* (*на ткані́не*). 2. мадэ́ль *f.*; вы́крайка *f.* (*для шыцьця́*). 3. прыкла́д, узо́р -у *m.*. 4. фо́рма *f.*

– v. 1. (after) браць пры́клад з *каго́.* 2. упрыго́жваць узо́рам

**patty** [ˈpæti] n. ала́дка, ала́дачка *f.*

**paunch** [pɔ:ntʃ] n. 1. трыбу́х -а́, жыв|о́т -ата́ *m.* (*асаблі́ва вялі́кі*), бру́ха *n.* 2. пе́ршы, найбо́льшы стра́ўнік жва́чнае жывёліны

**pauper** [ˈpɔ:pər] n. 1. жабра́к -а́ *m.*, жабра́чка *f.*; бядня́к бедняка́ *m.*, бядня́чка *f.* 2. асо́ба, яка́я карыста́ецца дабрачы́ннай дапамо́гай

**pause** [pɔ:z] – v. 1. затры́мвацца: ***to pause upon a word*** затрыма́цца на

сло́ве; спыня́цца; чака́ць. 2. мару́дзіць
– n. 1. перапы́нlак -ку *m.* (*у гу́тарцы, у спэкта́клі*), часо́вае спыне́ньне (*дзе́яньня*), перады́шка *f.* 2. па́ўза *f.* (*у чыта́ньні*). 3. знак прыпы́нку. 4. (*у му́зыцы*) па́ўза *f.*

**pave** [peɪv] v. 1. брукава́ць, масьці́ць (*ву́ліцу, хо́днік*). 2. рыхтава́ць да *чаго́*: ***to pave the way for*** праклада́ць даро́гу *чаму́*, рыхтава́ць грунт для *чаго́*

**pavement** [ˈpeɪvmənt] n. 1. брук -у *m.*, насьці́л з цэ́глы, бярве́ньня, асфа́льту. 2. матэрыя́л, ужыва́ны для насьці́лу *або́* бру́ку. 3. брукава́ная *або́* асфальтава́ная ву́ліца, хо́днік, тратуа́р -у *m.*

**pavilion** [pəˈvɪljən] n. 1. павільён -а *m.* 2. вялі́кая пала́тка. 3. шпіта́льны ко́рпус

**paving** [ˈpeɪvɪŋ] n. 1. матэрыя́л для машчэ́ньня даро́г. 2. а) брукава́ньне ву́ліцаў, даро́г. б) брук -у *m.*

**paw** [pɔ:] – n. ла́па *f.*
– v. 1. дакрана́цца, хапа́ць *або́* біць ла́пай. 2. біць капыто́м у зямлю́ (*пра каня́*). 3. ца́паць, ма́цаць

**pawn I** [pɔ:n] – v. заклада́ць, аддава́ць у закла́д пад пазы́ку
– n. 1. закла́д -у *m.*: ***in pawn*** у закла́дзе, на закла́д. 2. зару́ка, гара́нтыя *f.*

**pawn II** [pɔ:n] n. 1. пе́шка *f.* (*у ша́хматах*). 2. малава́ртасны чалаве́к *або́* рэч

**pawnbroker** [ˈpɔ:nˌbroukər] n. ула́сьнік лямба́рду, камісіёншчык -а *m.*

**pawnshop** [ˈpɔ:nʃɑ:p] n. лямба́рд -у *m.*, камісіёнка *f.*

**pay I** [peɪ] – v., **paid, paying** 1. плаці́ць: ***to pay too much*** пераплаці́ць. 2. аплачва́ць: ***Pay your way*** Аплаце́це даро́гу. 3. выпла́чваць: ***to pay a debt*** вы́плаціць доўг. 4. а) дава́ць, рабі́ць, выка́зваць: ***to pay attention*** зварача́ць ува́гу. б) ***to pay compliments*** рабі́ць камплімэ́нты; ***to pay respects*** вы́казаць паша́ну; ***to pay a visit*** наве́даць. 5. апла́чвацца: ***It wouldn't pay me to take this job*** Мне б не аплаці́лася ўзя́ць гэ́тую пра́цу. 6. дава́ць дахо́д: ***The stock pays me four per cent*** А́кцыі даю́ць мне чаты́ры працэ́нты дахо́ду
– n. 1. а) пла́та, вы́плата *f.* б) зарабо́тная пла́та, заро́блак -ку *m.*, пэ́нсія *f.*: ***rate of pay*** вышыня́ заро́бку
– adj. 1. пла́тны (*напр. тэлефо́н*). 2. рэнта́бэльны, дахо́дны, прыбытко́вы; мэтазго́дны ў гаспада́рчых адно́сінах: ***a pay lode*** прыбытко́вая ру́дная жы́ла
• ***in the pay of*** на апла́це ў *каго́*, нанята *кім*
• ***pay back*** а) вярта́ць, аддава́ць пазы́чаныя гро́шы. б) адудзя́чваць|ь (-ца); адпла́чваць, по́мсьціць: ***I'll pay you back yet*** Я яшчэ́ табе́ адплачу́
• ***pay for*** заплаці́ць за *што*
• ***pay in*** уно́сіць гро́шы (*на бягу́чы раху́нак*)
• ***pay off*** расплаці́цца (*і ў перано́сным сэ́нсе*), сплаці́ць

**pay II** [peɪ] v. смалі́ць (*дно чаўна́, карабля́; кана́т*)

**payable** [ˈpeɪəbəl] adj.1. плацё́жны, які́ трэ́ба заплаці́ць. 2. з тэ́рмінам плацяжу́

**payday** [ˈpeɪdeɪ] n. дзень вы́платы, зарпла́ты

**payee** [peɪˈi:] n. той, каму́ пла́цяць

**payer** [ˈpeɪər] n. пла́тнік -а *m.* (*той, хто пла́ціць*)

**payload** [ˈpeɪloud] n. кары́сны груз, кары́сная нагру́зка

**payment** [ˈpeɪmənt] n. 1. плац|ёж -яжу́ *m.* 2. пла́та, запла́та, вы́плата *f.* 3. запла́чаная су́ма: ***payment in kind*** пла́та нату́рай. 4. адпла́та *f.* а) узнаго́рода *f.*, *або́* б) пакара́ньне *n.*, ка́ра *f.*; по́мста *f.*

**pay office** ка́са *f.*

**pay-off** [ˈpeɪɔ:f] n. вы́плата *f.*

**pay phone** тэлефо́н-аўтама́т

**payroll** or **pay roll** [ˈpeɪroul] n. 1. плацё́жная ве́дамасьць. 2. агу́льная су́ма вы́плачаных гро́шай

**PC** [ˌpi:ˈsi:] (Personal Computer) пэрсанáльны кампу́тар

**pea** [pi:] – n., pl. **peas** 1. гарóх -у *m.*, гарóш|ак -ку *m.*; гарóшына *f.*, гарóшынка *f.* (*аднó гарóхавае зéрне*). 2. самá расьлíна гарóху

– adj. гарóхавы: ***pea soup*** гарóхаўка

• ***as like as two peas*** падóбныя, як дзьве крóплі вады́

**peace** [pi:s] – n. 1. мір -у *m.*; супакó|й -ю *m.* 2. супакóй, грамáдзкі парáдак і бясьпéка. 3. мíрная дамóва. 4. цішыня́ *f.*; супакó|й -ю *m.*; непару́шнасьць *f.*: ***peace of mind*** супакóй душы́ (*ду́ху*)

– interj. спакóйна! цíха!

• ***at peace*** а) спакóйна, без вайны́. б) у згóдзе. в) ***to be at peace*** жыць спакóйна. г) ***rest in peace*** сьпі спакóйна (*пра нябóжчыка*)

• ***hold*** or ***keep one's peace*** маўчáць

• ***keep the peace*** захóўваць *абó* ўтры́мваць супакóй і грамáдзкі парáдак

• ***make peace*** а) прымíры́ць, пагадзíц|ь (-ца). б) заключы́ць мір

**peaceable** [ˈpi:səbəl] adj. 1. міралю́бны, міратвóрны. 2. спакóйны, цíхі: ***Peaceable people keep out of quarrels*** Спакóйныя лю́дзі не мяшáюцца ў свáркі

**peaceful** [ˈpi:sfəl] adj. 1. спакóйны, цíхі, лагóдны. 2. мíрны; міралю́бны; міратвóрны

**peacefulness** [ˈpi:sfəlnəs] n. пóўны супакóй.

**peacemaker** [ˈpi:smeɪkər] n. прымíры́цел|ь -я, пагаджáльнік -а, міратвóр|ац -ца *m.*

**peacetime** [ˈpi:staɪm] n. мíрныя часы́

**peach** [pi:tʃ] – n. 1. пэ́рсік -а *m.* (*плод і дрэ́ва*). 2. румя́ны кóлер. 3. Sl. красу́ня

– adj. 1. пэ́рсікавы; румя́ны. 2. цудóўны; прыéмны

**peacock** [ˈpi:kɑ:k] n., pl. **-cocks,** esp. coll. **-cock** 1. паўлíн -а *m.* 2. ганарлí|вец -ўца *m.*, задавáк|а -і *m. & f.*

• ***peacock blue*** зеленавáта-сíні

**peahen** [ˈpi:hen] *n.* пáва *f.*

**peak** [pi:k] – n. 1. сьпічáстая вяршы́ня гары́ *абó* ўзгóрка, гóрны пік. 2. сáмы вéрхні пункт: ***the peak of a roof*** верх страхí. 3. брыл|ь -я́ *m.*, казыр|óк -кá *m.* 4. мыс -а *m.*

– adj. вяршы́нны

– v. уздымáцца ўгóру, вы́сіцца

**peaked I** [pi:kt] adj. 1. сьпічáсты, вóстраканцóвы. 2. ***a peaked hat*** шáпка з брылём

**peaked II** [pi:kəd] adj. змарнéлы, схуднéлы, блéдны, бляды́, з хваравíтым вы́глядам

**peal** [pi:l] – n. 1. перакáт -у *m.*; вы́бух -у *m.*: ***a peal of thunder*** перакáт грóму; ***peals of laughter*** вы́бухі сьмéху. 2. гóласны звон званóў, пераззвóн -у *m.* 3. падбóр званóў

– v. званíць (*трывóгу, рáдасьць*), абвяшчáць звóнам званóў

**peanut** [ˈpi:nʌt] n. 1. земляны́ арэ́х, арáхіс -у *m.* (*плод і расьлíна*). 2. струк землянóга арэ́ха. 3. малáя, маловáжная асóба

**peanuts,** Sl. дрóбязь *f.*, мáрныя грóшы

**pear** [per] n. ігру́ша *f.* (*плод і дрэ́ва*)

**pearshaped** [ˈperʃeɪpt] adj. грушападóбны

**pearl** [pɜ:rl] – n. 1. пэ́рла, пэ́рліна *f.*: ***genuine pearls*** запрáўдныя пэ́рлы. 2. крóпля расы́, расíнка *f.*; сьлязá *f.* 3. = ***mother of pearl*** мáціца *f.*, пэрламу́т|ар -ру *m.*

– v. 1. шукáць *абó* здабывáць пэ́рлы. 2. прыбірáць *абó* выкладáць пэ́рламі, пэрламу́трам

– adj. пэ́рлавы

• ***cast pearls before swine*** сы́паць пэ́рлы перад сьвíньнямí

**pearl barley** я́чныя кру́пы

**pearly** [ˈpɜ:rli] adj. 1. як пэ́рла; пэ́рлавага кóлеру; бліскýчы як пэ́рла: ***pearly teeth*** зу́бы як пэ́рлы. 2. мáціцавы, пэрламу́травы

**peasant** [ˈpezənt] – n. селянíн -а *m.*, сялянка *f.*; мужы́к -á *m.*

– adj. сялянскі,мужыцкі: ***peasant labor*** сялянская праца

**peasantry** [ˈpezəntri] n. сялянства *n.*

**peat** [pi:t] n. 1. торф -у *m.* 2. тарфяны брыкет

• ***peat bog*** імшара, амшара *f.*, тарфянік -а *m.*

**peat moss** 1. сфагнум -у *m.* 2. тарфянік -а *m.*

**pebble** [ˈpebəl] – n. 1. Geol. галька *f.* 2. камень -я *m.* 3. горны крышталь (*ужываны часам для акуляраў*)

– v.t. брукаваць *або* выкладаць каменем; пасыпаць галькай

**pebbly** [ˈpebli] adj. галечны.

**pecan** [pɪˈkɑ:n] n. арэх пэкан (*плод і расьліна*)

**peck I** [pek] n. 1. мера ёмістасьці 1/4 бушаля (*каля 9 л*). 2. шмат, мноства *n.*; куча *f.*, безьліч: ***a peck of trouble*** безьліч турботаў

**peck II** [pek] – v. 1. дзяўбці, дзяўбаць, дзёўбаць (*дзюбай*): ***A hen pecks corn*** Курыца дзяўбе кукурузу. 2. выдзёўбваць (*дзірку*). 3. Informal мала, неахвотна есьці. 4. Informal цмокнуць *pf.* (*пацалаваць сьпехам*)

– n. 1. удар дзюбай, дзяўблок -ка *m.* 2. выдзяўблены знак ці дзірка. 3. Informal цмокненьне, лёгкі пацалунак насьпех

• ***peck at*** крытыкаваць, чапляцца

**pectoral** [ˈpektərəl] – adj. 1. грудны: ***the pectoral muscles*** грудныя мускулы. 2. лёгачны (*напр. лек*)

– n. лек для лёгкіх

**peculate** [ˈpekjəleɪt] v. раскрадаць, растрачваць (*грошы ці давераную маёмасьць*)

**peculiar** [pɪˈkju:ljər] adj. 1. дзіўны, дзівачны; незвычайны, асобны. 2. асаблівы, своеасаблівы; спэцыфічны, уласьцівы: ***This book has a peculiar value*** Гэтая кніга мае асаблівую вартасьць

**peculiarity** [pɪˌkju:liˈærəti] n., pl. **-ties** 1. дзіўнасьць, дзівоснасьць, эксцэнтрычнасьць; незвычайнасьць *f.* 2. асаблівасьць, своеасаблівасьць *f.*, спэцыфічнасьць; характэрная рыса

**pedagogic** [ˌpedəˈgɑ:dʒɪk] adj. or **pedagogical** [ˌpedəˈgɑ:dʒɪkəl] пэдагагічны, навучальны

**pedagogy** [ˈpedəgoʊdʒi] n. 1. навучаньне *n.* 2. пэдагогіка *f.*

**pedal** [ˈpedəl] – n. пэдаль *f.*

– v. націскаць на пэдалі, працаваць пэдалямі: ***to pedal a bicycle*** ехаць на ровары

– adj. пэдальны

**peddle** [ˈpedəl] v. 1. прадаваць тавар у разнос. 2. прадаваць *або* гандляваць малымі колькасьцямі. 3. падарожнічаць з таварам на продаж

**peddler**, *тс.* **pedlar** [ˈpedlər] n. вандроўны гандляр

**pedestal** [ˈpedɪstəl] n. 1. п'едэстал -а *m.* (*пад помнік, калёну*), пастамэнт -а *m.* 2. паднóжжа *n.* 3. аснова *f.*, фундамэнт -а, цокаль -я *m*: ***to place on a pedestal*** узносіць на п'едэстал, ідэалізаваць

**pedestrian** [pəˈdestriən] – n. пешаход -а *m.*

– adj. 1. пешаходны (*мосьцік*); пешы (*чалавек*). 2. без палёту, нудны, нецікавы (*пра стыль*)

**pediatrics** [ˌpi:diˈætrɪks] n. пэдыятрыя *f.*

**pedigree** [ˈpedɪgri:] – n. 1. радавод -у *m.* 2. генэалёгія *f.*; продкі, прашчуры *pl.* 3. паходжаньне *n.* (*напр. слова*). 4. выдатнае, знатнае паходжаньне: ***a man of pedigree*** чалавек знатнага роду

– adj. пародзісты: ***a pedigree cat*** пародзісты кот

**pedigreed** [ˈpedɪgri:d] adj. добрага заводу; пародзісты (*пра свойскіх жывёлаў*)

**peek** [pi:k] – v. зірнуць крадком, зазірнуць крадком: ***to peek out*** вызіраць

– n. позірк крадком, употай

**peel I** [pi:l] – n. шалупіна, лупіна *f.* (*бульбы*), скурка *f.* (*яблыка*)

– v. 1. абіраць (*шалупіньне бульбы, аранжыкаў, яблыка*). 2. абдзіраць

(*кару́ з дрэ́ва*). 3. лу́шчыцца; абла́зіць: **paint is peeling** фа́рба лу́шчыцца; **My skin peeled (from sunburn)** Мая́ ску́ра абле́зла (ад зага́ру)

**peel II** [pi:l] n. лапа́та *f.* (*для саджа́ньня хле́ба ў печ*)

**peeling** [ˈpi:lɪŋ] n. шалупі́ньне, лупі́ньне *n., coll.*, зьдзе́ртая кара́

**peep I** [pi:p] – v. 1. загляда́ць праз дзі́рку *або́* вузку́ю шчы́ліну. 2. падгляда́ць. 3. прагляда́ць, пака́звацца (*пра со́нца*)

– n.1. по́зірк праз дзі́рку *або́* вузку́ю шчы́ліну. 2. мала́я дзі́рка *або́* шчы́ліна для загляда́ньня. 3. по́зірк крадко́м. 4. пе́ршае зьяўле́ньне, про́бліск -у *m.*: ***at the peep of day*** до́сьвіткам, на зо́лку, на сьвіта́ньні

**peep II** [pi:p] – n. 1. піск -у *m.*, цвы́рканьне *n.*

– v.1. пішчэ́ць; цвы́ркаць: ***The bird peeped*** Пту́шка запішчэ́ла 2. гавары́ць, пяя́ць то́нкім піскле́вым го́ласам

**peephole** [ˈpi:phoʊl] n. назіра́льная шчы́ліна, адту́ліна *або́* дзі́рка да загляда́ньня

**peep show** кінэтаско́п -а *m.*

**peer I** [pɪr] n. 1. раўн|я́ -і *m. & f.* (*каму́-н.*); ро́ўн|ы -ага *m.*, ро́ўная *f.* (*з кім-н.*): ***You will not find his peer*** Вы ня зно́йдзеце ро́ўнага яму́. 2. пэр -а *m.*, чалаве́к з выда́тнага ро́ду *або́* з ты́тулам (*як князь, граф, баро́н*)

**peer II** [pɪr] v. 1. прыгляда́цца зблі́зка, назіра́ць. 2. зьлёгку пака́звацца, выгляда́ць: ***The sun was peering from behind the cloud*** Со́нца выгляда́ла з-за хма́ры

**peerless** [ˈpɪrləs] adj. непараўна́льны, без раўні́

**peevish** [ˈpi:vɪʃ] adj. зласьлі́вы, грубія́нскі; раздражнёны; буркլі́вы, сварлі́вы, незадаво́лены, капры́зны (*і пра дзіця́*)

**peg** [peg] – n. 1. каль́оч|ак -ка *m.*, жале́зны *або́* драўля́ны болт *m.*; кало́к-за́тычка *f.* 2. ве́шалка *f.*, драўля́ны цьвік для ве́шаньня во́праткі.3. ступе́нь *f.* 4. каньяк з со́давай вадо́ю

– v. 1. прымацо́ўваць балта́мі *або́* драўля́нымі цьвіка́мі. 2. штучна трыма́ць цану́ на адны́м узро́ўні, ахо́ўваць ад хіста́ньняў (*курс, цану́ на бі́ржы*). 3. пазнача́ць калка́мі (*ме́сца*). 4. мо́цна працава́ць

***• take down a peg*** асадзі́ць; прыні́зіць каго́-н.

**peg leg** 1. драўля́ная нага́. 2. Informal чалаве́к з драўля́най наго́ю

**pejorative** [pɪˈdʒɔ:rətɪv] adj. прыніжа́льны, уніжа́льны

**pelican** [ˈpelɪkən] n. пэліка́н -а *m.*

**pellet** [ˈpelət] n. 1. малы́ камя́к (*хле́ба, папе́ры, гразі́*); пілю́ля *f.* 2. шраці́на, ку́лька *f.* (*для страля́ньня*)

**pelt I** [pelt] – v.i. 1. кі́даць, атакава́ць, напада́ць на *каго́*: ***The boys were pelting the dog with stones*** Хлапцы́ шпурля́лі камяня́мі ў саба́ку. 2. ліць; сячы́ (*пра дождж, град*). 3. сьпяша́цца

– n. 1. кі́даньне *n.* 2. ху́ткасьць *f.*: ***at full pelt*** по́ўным хо́дам

**pelt II** [pelt] n. 1. нявы́рабленая аўчы́на. 2. ску́ра

**peltry** [ˈpeltri] n., pl. **-ries** ску́ры; футравы́я тава́ры; фу́тры

**pelvic** [ˈpelvɪk] adj. та́завы

**pelvis** [ˈpelvɪs] n., pl. **-ves** (-vez) Anat. 1. таз -а *m.* 2. ко́сьці, які́я ўтвара́юць таз

**pen I** [pen] – n. пяро́ *n.* (*для пі́саньня*), пяро́ й аса́дка ра́зам: ***a ballpoint pen*** ша́рыкавая аса́дка

– v., **-nn-** піса́ць

**pen II** [pen] – n. 1. а) за́гарадзь *f.*, паста́ўнік -а *m.* (*для жывёлы, пту́шак*). б) саба́чая бу́дка ў сабака́рні. в) дзіця́чая за́гарадка.2. док для прыста́нішча *або́* рамо́нту падво́дных ло́дак

– v., **penned** or **pent** 1. заганя́ць (*жывёлу*) у за́гарадзь. 2. а) замыка́ць, заганя́ць у кут. б) садзі́ць пад а́рышт

**pen III** [pen] n., Sl. астро́г -у *m.*

**penal** [ˈpi:nəl] adj. 1. ка́рны (*пра́ва, ко́дэкс*): ***penal labor*** or ***servitude*** ка́тарга. 2. кара́льны: ***Robbery is a penal offence*** Рабу́нак — кара́льны ўчы́нак

**penalize** [ˈpi:nəlaız] v. 1. кара́цца зако́нам, быць кара́ным зако́нам; прызна́ць кара́льным зако́нам. 2. кара́ць; штрафава́ць (*у гульні́ за пару́шэньне пра́вілаў гульні́*)

**penalty** [ˈpenəlti] n., pl. **-ties** 1. пакара́ньне, спагна́ньне *n.*; штраф -у *m.* (*і ў спо́рце*): ***to inflict a penalty*** накла́сьці спагна́ньне, пакара́ць. 2. Informal невыго́да, нягода *f.*: ***the penalties of old age*** нягоды ста́расьці. 3. Sport штрафны́ ўдар, пэна́льты *m., indecl.*

**penalty box** (*у спо́рце*) штрафна́я ла́ўка; штрафна́я пляцо́ўка

**penance** [ˈpenəns] n. пакая́ньне *n.*

**pence** [pens] n., Brit. *мно́жны лік ад* **penny**

**pencil** [ˈpensəl] – n. 1. алаві́к -а́ *m.*, ало́ўвак -ўка *m.* 2. пэ́ндзаль -ля *m.* (*мастако́ў*). 3. Optic. пучо́к про́мняў (*які́я зыхо́дзяцца*)

– v. 1. адзнача́ць *або́* піса́ць алаві́ко́м. 2. маля́ва́ць алавіко́м

**pendant** [ˈpendənt] – n. 1. падве́ска *f.*, мэдальён -а *m.* 2. падве́сныя ўпрыго́жаньні (*на сто́лі*). 3. падве́ска *f.* (*прыстасава́ньне для падве́шваньня*)

– adj. *гл.* **pendent**

**pendent** [ˈpendənt] adj. 1. паві́слы (*напр. гальлё*), які́ паві́с, абві́с. 2. наві́слы; які́ зьве́шваецца наніз

**pending** [ˈpendıŋ] – adj. 1. незако́нчаны, які́ яшчэ́ разгляда́ецца: ***The agreement was pending*** Пагадне́ньне яшчэ́ разгляда́лася

– prep. 1. паку́ль: ***pending his return*** паку́ль ён ве́рнецца. 2. у ча́се: ***pending the investigation*** у ча́се сьле́дзтва

**pendulum** [ˈpendʒələm] n. ма́ятнік -а *m.*

**penetrate** [ˈpenətreıt] v. 1. увайсьці́ ў *што*, прабі́ць навы́лет (*пра ку́лю*). 2. праніка́ць, праніза́ць: ***Our eyes could not penetrate the darkness*** На́шыя во́чы не маглі́ прыгле́дзецца ў це́мры. б) прахо́дзіць. 2. разыхо́дзіцца; напаўня́ць сабо́ю, прасяка́ць: ***The smell penetrated the whole house*** Пах разыйшо́ўся па ўсёй ха́це. 3. уніка́ць у што; уду́мвацца, разуме́ць. 4. глыбо́ка *або́* мо́цна крана́ць; рабі́ць вялі́кае ўра́жаньне; ура́жваць, хваля́ва́ць

**penetrating** [ˈpenətreıtıŋ] adj. 1. во́стры; прані́зьлівы (*по́зірк, хо́лад*). 2. праніклівы, а) пі́льны (*пра во́чы, по́гляд*). б) які́ глыбо́ка і пра́вільна разуме́е

**penetration** [ˌpenəˈtreıʃən] n. 1. праніка́ньне *n.* 2. прані́клівасьць, вастрыня́ ро́зуму.

**penetrative** [ˈpenətreıtıv] adj. *гл.* **penetrating**

**penguin** [ˈpeŋgwın] n. пінгві́н -а *m.*

**penholder** [ˈpenhouldər] n. 1. аса́дка, ру́чка *f.* (*для пяра́*). 2. падста́ўка на пёры

**penicillin** [ˌpenəˈsılın] n. пэніцылі́н -у *m.*

**peninsula** [pəˈnınsələ] n. паўабто́к -а *m.*, паўво́страў -ва *m.*

**peninsular** [pəˈnınsələr] adj. паўабто́кавы, паўастраўны́

**penis** [ˈpi:nıs] n., pl. **-nises, -nes** пэ́ніс -а *m.*, мужчы́нскі палавы́ о́рган

**penitence** [ˈpenətəns] n. пакая́ньне; раска́яньне, шкадава́ньне *n.* (*аб памы́лцы*)

**penitentiary** [ˌpenıˈtenʃəri] – n., pl. **-ries** астро́г -у *m.* (*для пава́жных злачы́нцаў*), турма́ для адбыва́ньня ка́таргі

– adj. 1. кара́ны астро́гам: ***a penitentiary offence*** злачы́нства, кара́нае астро́гам. 2. папра́ўчы: ***penitentiary measures*** папра́ўчыя за́хады. 3. пакая́льны

**penknife** [ˈpennaıf] n., pl. **-knives** складны́ кішэ́нны но́жык, сьцізо́рык -а *m.*

**penman** [ˈpenmən] n., pl. **-men** 1. пісьме́ньнік, а́ўтар -а *m.* 2. пі́сар -а *m.*:

***good penman*** асо́ба з прыго́жым, разбо́рлівым по́чыркам, калігра́ф -а *m.*

**penmanship** [ˈpenmənʃɪp] n. 1. піса́ньне пяро́м, алаві́ком, калігра́фія *f.*, по́чырк -у *m.* 2. літарату́рны твор

**pen name** псэўдані́м -у *m.*

**penniless** [ˈpeniləs] adj. без граша́; які́ ня ма́е гро́шай; ве́льмі бе́дны

**penny** [ˈpeni] n., pl. **pennies** or Brit. **pence** 1. (*у Кана́дзе і ЗША*) цэнт. 2. (*у Вялі́кай Брыта́ніі*) пэнс

• ***pretty penny*** вялі́кая су́ма гро́шай

• ***turn an honest penny*** сумле́нна зарабля́ць гро́шы

**penny-wise** [ˈpeniwaɪz] adj. 1. ашча́дны (*ў дро́бязях*): ***penny-wise and pound-foolish*** ашча́дны ў малы́х выда́тках і марнатра́ўны ў вялі́кіх

**pension** [ˈpenʃən] n. пэ́нсія *f.*

• ***pension off*** адыхо́дзіць, ісьці́ на пэ́нсію

**pensioner** [ˈpenʃənər] n. 1. пэнсіянэ́р -а *m.*, пэнсіянэ́рка *f.* 2. на́йміт -а *m.*

**pensive** [ˈpensɪv] adj. 1. заду́млівы, задуме́нны. 2. марко́тны, тужлі́вы, мэлянхалі́чны

**pensiveness** [ˈpensɪvnəs] n. задуме́ннасьць, заду́млівасьць *f.*

**pentagon** [ˈpentəgɑ:n] n. 1. Geom. пяціку́тнік -а *m.* 2. ***the Pentagon*** Пэнтаго́н -у *m.* (*міністэ́рства абаро́ны ЗША*)

**pentagonal** [penˈtægənəl] adj. пяціку́тны

**pentameter** [penˈtæmetər] n. пэнта́мэт|ар -ра *m.*

**peony** [ˈpi:əni] n., pl. **-nies** піво́ня, піво́нія *f.*

**people** [ˈpi:pəl] – n., pl. **-ple** 1. лю́дзі, *pl. only.* 2. **-ples** наро́д -у *m.*, на́цыя *f.* 3. про́стыя лю́дзі. 4. Informal сям'я́ *f.*, сваякі́: ***my people*** мае́ ро́дныя, мае́ сваякі́

– v. засяля́ць

**pepper** [ˈpepər] – n. 1. пе́р|ац -цу *m.* 2. пе́рачніца *f.* 3. жы́васьць *f.*, энэ́ргія *f.*

– v. 1. пе́рчыць. 2. гу́ста абсе́йваць: ***peppered with freckles*** гу́ста абсе́еным рабаці́ньнем. 3. засыпа́ць ку́лямі (*во́рага*)

**peppercorn** [ˈpepərkɔ:rn] n. зе́рнетка пе́рцу

**peppery** [ˈpepəri] adj. 1. мо́цна напе́рчаны; як пе́рац. 2. во́стры, е́дкі. 3. гара́чы; запа́льчывы; энэргі́чны

**pepsin** or **pepsine** [ˈpepsɪn] n. пэпсі́н -у *m.*

**peptic** [ˈpeptɪk] – adj. 1. стравава́льны, які́ дапамага́е страва́ваньню. 2. пэпсі́навы

– n. рэ́чыва, якóе спрыя́е страва́ваньню

**per** [pɜ:r] prep. 1. на ко́жнага; за: ***a pound of candy per child*** фунт цуке́рак на ко́жнае дзіця́; ***ten cents per pound*** дзе́сяць цэ́нтаў за фунт. 2. праз *каго́*: ***I'll send it per my son*** Я пашлю́ гэ́та праз сы́на

• ***as per*** згóдна з *чым*, паво́дле *чаго́*

**per annum** [pə:rˈænəm] на год; гадавы́.: ***Her salary was $10,000 per annum*** Ейны заро́бак быў дзе́сяць ты́сячаў даля́раў на год

**percale** [pərˈkeɪl] n. парка́л|ь -ю *m.*

**per capita** [pərˈkæpətə] на чалаве́ка, на асо́бу: ***$40 for eight men is $5 per capita*** Со́рак даля́раў на васьмёх чалаве́к — гэ́та пяць даляраў на чалаве́ка

**perceive** [pərˈsi:v] v. 1. успрыма́ць, адчува́ць пачу́цьцямі (*ба́чыць, чуць*) 2. разуме́ць; заўважа́ць, ба́чыць

**percent** or **per cent** [pərˈsent] adj. со́тая ча́стка, працэ́нт -у, адсо́т|ак -ку *m*: ***Seven percent of all the students failed*** Сем працэ́нтаў усі́х ву́чняў не здалі́

**percentage** [pərˈsentɪdʒ] n. 1. працэ́нт -у *m.* (*про́сты і склада́ны*). 2. ча́стка, ко́лькасьць *f.*: ***a large percentage of books*** вялі́кая ча́стка кні́г

**percept** [ˈpɜ:rsept] n. 1. прадме́т успрыма́ньня. 2. вы́нік успрыма́ньня

**perceptibility** [pərˌseptəˈbɪləti] n. адчува́льнасьць, заўважа́льнасьць, прыкме́тнасьць, успрыма́льнасьць *f.*

**perceptible** [pərˈseptəbəl] adj. 1. адчувáльны; бáчны, заўвáжны; прыкмéтны, знáчны: ***barely perceptible*** ледзь бáчны, ледзь улóўны

**perceptibly** [pərˈseptəbli] adv. 1. адчувáльна, бáчна, улóўна. 2. у знáчнай ступéні

**perception** [pərˈsepʃən] n. успрымáньне, адчувáньне *n.*; усьведамлéньне, разумéньне *n.*: ***a keen perception*** тóнкае адчувáньне

**perceptive** [pərˈseptɪv] adj. наглядáльны, назірáльны; успрымáльны

**perch I** [pɜ:rtʃ] – n. 1. жэ́рдка для птýшак, высóкае бясьпéчнае мéсца. 2. *мéра даўжынí 5,03 мэ́траў*

– v. спусьцíцца і сéсьці (*пра птýшку*); усéсьціся высóка

**perch II** [pɜ:rtʃ] n., pl. **perches** or (collect) **perch** акýн|ь -я́ *m.* (*рыба*)

**percolate** [ˈpɜ:rkəleɪt] v. 1. кáпаць, сьцякáць. 2. прасóчвацца; прахóдзіць праз *што*, фільтравáц|ь (-ца): ***Water percolates sand*** Вадá прахóдзіць, прасóчваецца празь пясóк. 3. вары́ць кáву ў кáўніку зь сíткам

**percolator** [ˈpɜ:rkəleɪtər] n. кáўнік зь сíткам, пэркаля́тар -а *m.*

**percussion** [pərˈkʌʃən] n. 1. мóцнае сутыкнéньне *n.*; удáр -у *m.* (*аднагó цéла аб другóе*). 2. страсéньне *n.* 3. Med. выстýкваньне *n.* (*хвóрага*). 4. Mus. пэркýсіі *pl.* (*удáрныя інструмэ́нты*)

**perdition** [pərˈdɪʃən] n. 1. Theol. асуджэ́ньне (*душы́*) на вéчную загýбу. 2. пéкла *n.* 3. пóўная загýба, пагíбель *f.*

**peregrinate** [ˈperəgrɪneɪt] v. падарóжнічаць; вандравáць; аб’éхаць, абыйсьцí (*мясцóвасьць*)

**peregrination** [ˌperəgrˈɪneɪʃən] n. вандрóўка *f.*, падарóжжа *n.*

**peregrinator** [ˈperəgrɪneɪtər] n. вандрóўнік -а *m.*

**peregrine** [ˈperəgrɪn] – n. вялíкі сóкал

– adj. 1. замéжны, неутэ́йшы; чужы́. 2. які́ падарóжнічае па чужы́х краёх; вандрóўны

**peremptory** [pəˈremptəri] adj. 1. загáдны; станаўкí (*пра асóбу, тон*). 2. катэгары́чны, неаспрэ́чны (*патрабавáньне*): ***a peremptory command*** катэгары́чны загáд. 3. канчаткóвы; абсалю́тны; рашýчы (*пра адмóву*): ***a peremptory decree*** канчаткóвая пастанóва

**perennial** [pəˈreniəl] – adj. 1. які́ цягнецца, трывáе ўвéсь год; які́ не перасыхáе ўлéтку (*пра струмéнь*). 2. вéчны; неўвядáльны (*пра красý*). 3. Bot. шматгадóвы (*пра расьлíны*): ***perennial garden plants*** шматгадóвыя садóвыя расьлíны

– n. шматгадóвая расьлíна: ***Roses are perennials*** Рýжы — шматгадóвыя расьлíны

**perfect** [ˈpɜ:rfɪkt] – adj. 1. беззагáнны; дасканáлы. 2. высóка кваліфікавáны, майстэ́рскі: ***a perfect golfer*** выдáтны гулéц у гóльф. 3. цэ́лы; пóўны. а) ***The set was perfect; nothing was missing*** Камплéкт быў пóўны, нíчóга не бракавáла. б) ***in perfect security*** у пóўнай бясьпéцы. в) ***He was a perfect stranger to us*** Ён быў зусíм чужы́м чалавéкам для нас. 4. Gram. закóнчаны (*час*). 5. Bot. які́ мáе тычы́нкі й пéсьцікі (*пра квéтку*)

– v.t. [pərˈfekt] 1. паляпшáць, удасканáльваць. 2. рабíць апóшнія штрыхí, дапрацóўваць (*карцíну, рамáн*). 3. закáнчваць

– n. фóрма *абó* слóва ў закóнчаным чáсе

**perfection** [pərˈfekʃən] n. 1. дасканáласьць, беззагáннасьць *f.* 2. удасканáльваньне, удасканáленьне *n.*, палéпшаньне; завяршэ́ньне *n.*

• ***to perfection*** дасканáла, выдáтна

**perfective** [pərˈfektɪv] – adj. 1. які́ імкнéцца рабíць усё дасканáла. 2. Gram. закóнчаны

– n., Gram. ***the perfective aspect*** закóнчанае трывáньне

**perfectly** [ˈpɜ:rfɪktli] adv. 1. вéльмі дóбра, выдáтна; дасканáла. 2. цáлкам, вéльмі даклáдна; беззагáнна; зусíм

**perfidious** [pərˈfɪdiəs] adj. вераломны, падступны, здрадніцкі, няверны

**perfidiously** [pərˈfɪdiəsli] adv. вераломна; подступам, па-здрадніцку

**perfidy** [ˈpɜ:rfədi] n.,pl.**-dies** вераломства *n.*; подлая здрада; вераломнасьць *f.*

**perforate** [ˈpɜ:rfəreɪt] – v.t. 1. прабіваць, рабіць дзіркі, дзіравіць. 2. рабіць рады дзірак (*як у лістох паштовых марак*), пэрфараваць
– adj. [ˈpɜ:rfərət] прабіты, прадзіраўлены

**perforation** [ˌpɜ:rfəˈreɪʃən] n. 1. прасьвідраваная *або* прабітая дзірка (*як напр. у сальніцы*). 2. дзіраўленьне; прабіваньне дзірак; пэрфарацыя *f.*

**perforator** [ˈpɜ:rfəreɪtər] n. 1. Tech. бурыльны малаток. 2. прылада для прабіваньня адтулінаў (*у паперы, на кінастужцы*), пэрфаратар -а *m.*

**perforce** [pərˈfɔ:rs] adv. зь неабходнасьці; хочаш-ня-хочаш, хоцькі-ня-хоцькі

**perform** [pərˈfɔ:rm] v. 1. выконваць; ***Perform your duties well*** Добра выконвай свае абавязкі; ***to perform a song (a dance)*** выканаць песьню (танец). 2. выступаць на сцэне, граць ролю

**performance** [pərˈfɔ:rməns] n. 1. выконваньне, выкананьне *n.* 2. учынак, высакародны ўчынак; дасягненьне *n.* 3. паказ -у *m.*, спэктакль -ю *m.*, канцэрт -у *m.*, выступ -у *m.*; сэанс (*у кіно*): ***The evening performance is at 8 o'clock*** Вячэрні выступ а восьмай гадзіне

**performer** [pərˈfɔ:rmər] n. выканаўца *m.&.f.*; актор -а *m.*, акторка *f.*

**perfume** [ˈpɜ:rfju:m] – n. 1. духі *pl.*, парфума *f.* 2. прыемны пах, водар -у *m.*, духмянасьць *f.*
– v. [pərˈfju:m] 1. напаўняць водарам. 2. надушваць *каго-што*, апырскваць духамі, чым-н. пахучым; надушвацца, апырсквацца сябе духамі

**perfumery** [pərˈfju:məri] n., pl. **-eries** 1. парфумэрыя *f.* 2. духі *pl.*, парфума *f.* 3. выраб *або* продаж духоў

**perfunctory** [pərˈfʌŋktəri] adj. 1. павярхоўны, мэханічны, зроблены абы як. 2. нядбайны: ***in a perfunctory way*** нядбайна, для прыліку

**perhaps** [pərˈhæps] adv. можа, мо; магчыма; хіба, бадай што

**pericarp** [ˈperəkɑ:rp] n. Bot. каляплоднік -а *m.*

**peril** [ˈperəl] – n. небясьпека, рызыка *f.*: ***at one's peril*** на сваю рызыку, на сваю адказнасьць
– v. 1. ставіць пад небясьпеку *каго-што.* 2. рызыкаваць, ставіць пад пагрозу

**perilous** [ˈperələs] adj. небясьпечны; рызыкоўны

**period** [ˈpɪriəd] – n. 1. час, адцінак часу: ***He visited us for a short period*** Ён гасьціў у нас кароткі час. 2. эпоха *f.* (*у геалёгіі*). 3. пэрыяд -у *m.* (*і ў спартовай гульні*). 4. кропка *f.*, пункт -у *m.*
– interj., Informal канец! кропка!: ***The discussion is over, period!*** Дыскусія скончаная, кропка!

**periodic** [ˌpɪriˈɑ:dɪk] adj. 1. пэрыядычны. 2. які здараецца калі-нікалі

**periodical** [ˌpɪriˈɑ:dɪkəl] – n. часапіс -у *m.*
– adj. 1. часапісны. 2. які выдаецца рэгулярна. 3. пэрыядычны

**periodically** [ˌpɪriˈɑ:dɪkli] adv. 1. пэрыядычна, рэгулярна. 2. калі-нікалі; зрэдку

**periodicity** [ˌpɪriəˈdɪsəti] n., pl. **-ties** пэрыядычнасьць, рэгулярнасьць *f.*

**periphery** [pəˈrɪfəri] n., pl. **-eries** 1. пэрыфэрыя *f.*, ускраіна *f.* 2. акружнасьць *f.* (*кола*)

**perish** [ˈperɪʃ] v. 1. нішчыцца, быць зьнішчаным. 2. гінуць; паміраць: ***Many soldiers perished in the battle*** Шмат жаўнераў загінула ў бітве

**perishable** [ˈperɪʃəbəl] – adj. нетрывалы, хуткапсавальны
– n., usually ***perishables*** хуткапсавальныя тавары, прадукты

**perishableness** [ˈperɪʃəbəlnəs] n. нетрываласьць, хуткапсавальнасьць *f.*

**perjure** [ˈpɜ:rdʒər] v. 1. фальшы́ва прысяга́ць *або́* сьве́дчыць, крывасьве́дчыць, ілжэсьве́дчыць. 2. паруша́ць прыся́гу

**perjured** [ˈpɜ:rdʒərd] adj. вінава́ты ў прыся́гапарушэ́ньні; фальшы́вы; ілжы́вы: ***a perjured witness*** ілжы́вы сьве́дка; ***perjured evidence*** ілжы́вае сьве́дчаньне

**perjurer** [ˈpɜ:rdʒərər] n. прыся́гапаруша́льнік -а *m.*, прыся́гапаруша́льніца *f.*, ілжэсьве́дк|а -і *m. & f.*

**perjury** [ˈpɜ:rdʒəri] n., pl. **-ries** крывасьве́дчаньне, ілжэсьве́дчаньне, прыся́гапарушэ́ньне *n.*

**perk I** [pɜ:rk] v. 1. дзёрзка ўскіда́ць галаву́. 2. ажыўля́цца. 3. выстро́йвацца; прыбіра́цца. 4. жва́ва кі́дацца напе́рад

• ***perk up*** ажы́ць ду́хам, павесяле́ць

**perk II** [pɜ:rk] v., Informal вары́ць ка́ву ў пэркаля́тары

**perky** [ˈpɜ:rki] adj. спры́тны, бра́вы, спра́ўны; бы́стры; жва́вы; наха́бна задзі́рысты

**permanence** [ˈpɜ:rmənəns] n. нязьме́ннасьць, трыва́ласьць *f.*

**permanent** [ˈpɜ:rmənənt] – adj. ста́лы, разьлі́чаны на до́ўгі час: ***a permanent filling in a tooth*** ста́лая плёмба ў зу́бе; ***a permanent job*** ста́лая пра́ца
– n., Informal заві́ўка-пэрманэ́нт

**permanently** [ˈpɜ:rmənəntli] adv. ста́ла; надо́ўга; наза́ўсёды

**permeability** [ˌpɜ:rmiəˈbɪləti] n. праніка́льнасьць, прапушча́льнасьць *f.* (*для вады́*)

**permeable** [ˈpɜ:rmiəbəl] adj. праніка́льны, прапушча́льны: ***A sponge is permeable by water*** Гу́бка ёсьць вадапраніка́льная

**permeate** [ˈpɜ:rmieɪt] v. 1. распаўсю́джвацца, разыхо́дзіцца; прамо́чваць: ***Smoke permeated the house*** Дым разыйшо́ўся па ўсёй ха́це. 2. праніка́ць, прахо́дзіць праз *што*

**permeation** [ˌpɜ:rmiˈeɪʃən] n. праніка́ньне *n.*; распаўсю́джваньне; прася́каньне *n.*

**permissible** [pərˈmɪsəbəl] adj. дазво́лены, дапушча́льны

**permission** [pərˈmɪʃən] n. дазво́л -у *m.*, зго́да *f.*

**permissive** [pərˈmɪsɪv] adj. 1. які́ дазваля́е. 2. дазво́лены. 3. нястро́гі (*што да дысцыплі́ны*), талера́нтны, пабла́жлівы

**permit** [pərˈmɪt] – v.t. 1. дазваля́ць: ***Permit me to explain*** Дазво́льце мне вы́тлумачыць; ***It is permitted*** Дазво́лена
– n. [ˈpɜ:rmɪt] 1. пісьмо́вы дазво́л: ***a permit to fish or hunt*** афіцы́йны дазво́л лаві́ць ры́бу або́ палява́ць. 2. дазво́л -у (*наагу́л*) *m.*

**pernicious** [pərˈnɪʃəs] adj. 1. шко́дны: ***pernicious habits*** шко́дныя звы́чкі. 2. згу́бны, пагі́бельны: ***pernicious anemia*** злая́касная анэмі́я

**perniciousness** [pərˈnɪʃəsnəs] n. шко́днасьць; згу́бнасьць, злая́каснасьць *f.*

**perorate** [ˈperəreɪt] v. 1. рабі́ць фарма́льнае заканчэ́ньне (*у прамо́ве*), рэзюмава́ць. 2. до́ўга прамаўля́ць, мнагасло́віць

**peroxide** [pəˈrɑ:ksaɪd] – n., Chem. 1. пе́ракіс -у *m.* 2. ***hydrogen peroxide*** пе́ракіс вадаро́ду
– v. вы́мыць пе́ракісам (*валасы́*)

**perpendicular** [ˌpɜ:rpənˈdɪkjələr] – adj. 1. які́ стаі́ць старчако́м, про́ста ўве́рх. 2. Geom. прастаста́ўны, пэрпэндыкуля́рны. 3. ***Perpendicular*** гаты́цкі, по́зьнеангéльскі (*пра стыль у архітэкту́ры*)
– n. 1. пэрпэндыкуля́рная лі́нія *або́* пло́шча. 2. пэрпэндыкуля́рная пазы́цыя.

**perpetrate** [ˈpɜ:rpətreɪt] v. рабі́ць, учыня́ць (*злачы́нства, ашука́нства, памы́лку*)

**perpetration** [ˌpɜ:rpəˈtreɪʃən] n. 1. учыне́ньне (*злачы́нства, ашука́нства*). 2. злачы́нства, ашука́нства *n.* (*або́ і́ншае зло*)

**perpetrator** [ˈpɜ:rpətreɪtər] n. паруша́льнік зако́ну, вінава́ўца -ы *m.& f.*, злачы́н|ец -ца *m.*

**perpetual** [pər'petʃuəl] adj. 1. вéчны, вéчнатрывáлы; заўсёдны. 2. пажыцьцёвы: ***a perpetual income*** пажыцьцёвыя прыбы́ткі. 3. бесьперапы́нны, несьціхáны: ***a perpetual motion*** бесьперапы́нны рух

**perpetually** [pər'petʃuəli] adv. назаўсёды, вéчна, безупы́нна

**perpetuate** [pər'petʃueɪt] v. увекавéчваць; захóўваць заўсёды, вéчна; працягваць гадáмі, вякáмі

**perplex** [pər'pleks] v. 1. прывóдзіць у разгу́бленасьць *абó* ў неўразумéньне, зьбівáць з трóпу; бянтэ́жыць, ашаламля́ць. 2. заблы́тваць, ускладня́ць (*спрáву*); ***to be perplexed*** сумéцца, разгубíцца, зьбянтэ́жыцца

**perplexity** [pər'pleksəti] n., pl. **-ties** 1. неўразумéньне *n.*; разгу́бленасьць, зьбянтэ́жанасьць *f.* 2. ця́жкае, складáнае станóвішча, зáгваздка *f.*

**persecute** ['pɜ:rsɪkju:t] v. 1. перасьлéдаваць; уціскáць, прыгнятáць. 2. карáць (*за рэлíгію*). 3. дакучáць, назаля́ць

**persecution** [ˌpɜ:rsɪ'kju:ʃən] n. уцíск -у *m.*; прыгнёт, перасьлéд -у *m.*

**persecutor** ['pɜ:rsɪkju:tər] n. прыгнятáльнік -а *m.*, прыгнятáльніца *f.*; перасьлéднік -а *m.*, перасьлéдніца *f.*

**perseverance** [ˌpɜ:rsə'vɪrəns] n. стóйкасьць, трывáласьць, настóйлівасьць *f.* (*у дасягнéньні чагó-н.*), зацятасьць: ***Perseverance leads to success*** Настóйлівасьць вядзé да пóсьпеху

**persevere** [ˌpɜ:rsə'vɪr] v. настóйваць (*на сваíм*); быць настóйлівым, вытрывáлым у *чым*

**persist** [pər'sɪst] v. 1. настóйліва, упáрта працягваць. 2. (in) упáрта трымáцца, не адступáць, не здавáцца; упірáцца: ***He persisted in his opinion*** Ён упáрта трымáўся сваé дýмкі. 3. трывáць; не перастаўáць íснаваць: ***On high mountains snow persists throughout the year*** На высóкіх гарáх сьнег ляжы́ць увéсь год. 4. сцьвярджáць; казáць знóў і знóў

**persistence** [pər'sɪstəns] *and* **persistency** [pər'sɪstənsi] n. 1. упáртасьць, настóйлівасьць, насты́рлівасьць *f.* 2. дóўгае трывáньне, працягласьць: ***the persistence of a cough*** працяглáсьць кáшлю

**persistent** [pər'sɪstənt] adj. 1. напóрысты, настóйлівы; заця́ты (*і пра боль*), насты́рны: ***a persistent worker*** заця́ты рабóтнік. 2. няспы́нны, працяглы: ***a persistent headache*** няспы́нны боль галавы́. 3. Zool. стáлы, нязьмéнны: ***persistent horns*** стáлыя рóгі

**person** ['pɜ:rsən] n. 1. асóба *f.*, чалавéк -а *m.*: ***not a single person*** ні аднóй жывóй душы́, нікóга, нівóднагó чалавéка. 2. вы́гляд -у *m.*, зьнéшнасьць *f.*: ***He has a fine person*** Ён мáе дóбрую зьнéшнасьць. 3. Gram. асóба *f.*: ***first person, second person, third person*** пéршая асóба, другáя асóба, трэ́цяя асóба

• ***in person*** у сóбскай асóбе; асабíста

**personage** ['pɜ:rsənɪdʒ] n. 1. выдáтная *абó* вáжная асóба. 2. асóба *f.* 3. дзéйная асóба, пэрсанáж -у *m.* (*у мастáцкім твóры, п'éсе*)

**personal** ['pɜ:rsənəl] – adj. 1. прывáтны: ***a personal letter*** прывáтны ліст. 2. асабíсты (*улáснасьць, правы́, рэ́чы, патрэ́бы*), пэрсанáльны: ***a personal invitation*** пэрсанáльныя запрóсіны. 3. які́ закранáе асóбу: ***personal remarks*** асабíстыя заўвáгі (*з мэ́тай абрáзіць абó скрыўдзіць*). 4. Gram. асабóвы: ***personal pronouns*** асабóвыя займéньнікі

– n. карóткая зьвéстка ў газэ́це пра прывáтныя спрáвы

**personality** [ˌpɜ:rsə'næləti] n.,pl. **-ties** 1. індывідуáльнасьць *f.* 2. індывідуáльныя ры́сы. 3. асóба *f.;* пэрсанáж -у *m.* 4. вáжная, вéдамая асóба: ***a T.V. personality*** вéдамая тэлевізíйная асóба

**personalize** ['pɜ:rsənəlaɪz] v. 1. рабíць асабíстым. 2. увасабля́ць, пэрсаніфікавáць

**personally** [ˈpɜːrsənəli] adv. 1. асабіста. 2. што да *каго́*: ***Personally I differ from you*** Што да мяне́, то я не пагаджа́юся з ва́мі. 3. як асо́бу, як чалаве́ка: ***We like him personally, but*** Мы лю́бім яго́ як чалаве́ка, а́ле

**personal property** асабі́стыя рэ́чы, асабі́стая маёмасьць, рухо́мая маёмасьць

**personate** [ˈpɜːrsəneɪt] v.t. 1. граць ро́лю *каго́* (*у п'е́се*). 2. выдава́ць сябе́ за *каго́*

**personification** [pərˌsɑːnɪfɪˈkeɪʃən] n. 1. увасабле́ньне, уцелаўле́ньне *n.*: ***A miser is the personification of greed*** Скна́ра — гэ́та ўвасабле́ньне хці́васьці. 2. пэрсаніфіка́цыя *f.*

**personify** [pərˈsɑːnɪfaɪ] v.t. **-fied, -fying** 1. увасабля́ць: ***Satan personifies evil*** Сатана́ ўвасабля́е зло. 2. пэрсаніфікава́ць

**personnel** [ˌpɜːrsəˈnel] n. пэрсана́л -у *m.*, ка́дры *pl. only*

**perspective** [pərˈspektɪv] – n. 1. пэрспэкты́ва *f.* 2. пля́ны, ві́ды на бу́дучыню – adj. пэрспэкты́ўны

**perspicacious** [ˌpɜːrspɪˈkeɪʃəs] adj. прані́кліві, здага́длівы, прадба́члівы; назіра́льны

**perspicuity** [ˌpɜːrspəˈkjuːəti] n. я́снасьць, выра́знасьць *f.*

**perspiration** [ˌpɜːrspəˈreɪʃən] n.1. пот -у *m.* 2. паце́ньне *n.*

**perspire** [pərˈspaɪr] v. паце́ць

**persuade** [pərˈsweɪd] v. 1. перако́нваць. 2. а) (into) угаво́рваць, намаўля́ць на *што*; схіля́ць да *чаго́* б) (from, out of) адгаво́рваць ад *чаго́*

**persuasion** [pərˈsweɪʒən] n. 1. перако́нваньне *n.*, угаво́ры *pl.*: ***All our attempts at persuasion were of no use*** Усе́ на́шыя ўгаво́ры не дапамаглі́. 2. пераканаўчасьць, перакана́льнасьць *f.* 3. перакана́ньні *pl.* (*палі́ты́чныя*). 4. веравызна́ньне *n.* ***persuasions*** ве́раваньні *pl.*

**persuasive** [pərˈsweɪsɪv] adj. пераканаўчы, перакана́льны

**pert** [pɜːrt] adj. 1. наха́бны, дзёрзкі; гарэ́зны, адва́жны: ***a pert girl*** адва́жная дзяўчы́на: ***a pert reply*** дзёрзкі адка́з. 2. Informal жва́вы, бадзёры: ***a very pert old woman*** ве́льмі жва́вая стара́я жанчы́на. 3. Obsolete а) кваліфікава́ны. б) спра́ўны; разу́мны

**pertain** [pərˈteɪn] v. 1. нале́жаць да *чаго́*, быць далу́чаным да *чаго́*: ***We own the house and the land pertaining to it*** Мы ма́ем дом і зямлю́, што да яго́ нале́жыць. 2. мець дачыне́ньне да *чаго́*: ***pertaining to school*** які́ ма́е дачыне́ньне да шко́лы. 3. быць адпаве́дным *чаму́*

**pertinent** [ˈpɜːrtənənt] adj. дарэ́чны; слу́шны, на тэ́му: ***pertinent remark*** дарэ́чная заўва́га, заўва́га па су́тнасьці пыта́ньня

**pertness** [ˈpɜːrtnəs] n. 1. дзёрзкасьць, наха́бнасьць *f.* 2. адва́жнасьць *f.* 3. Informal жва́васьць, бадзёрасьць *f.*

**perturb** [pərˈtɜːrb] v. 1. мо́цна непако́іць (-ца); трыво́жыць; турбава́ць: ***The doctor was much perturbed by his patient's relapse*** До́ктар ве́льмі ўстрыво́жыўся рэцыды́вам хваро́бы ў пацые́нта. 2. рабі́ць замяша́ньне, непара́дак

**peruke** [pəˈruːk] n. пары́к -а́ *m.*

**Peruvian bark** хі́нная кара́

**pervade** [pərˈveɪd] v. 1. разыхо́дзіцца ўсю́ды, напаўня́ць сабо́ю: ***The odor of pines pervades the air*** Хваёвы пах напаўня́е паве́тра. 2. прахо́дзіць; праніка́ць, прасяка́ць: ***The author's anger at injustice pervades the whole novel*** А́ўтаравай злосьцю на несправядлі́васьць прася́кнуты ўве́сь рама́н

**perverse** [pərˈvɜːrs] adj. 1. упа́рты, капры́зны: ***a perverse child*** непаслухмя́нае дзіця́. 2. сапсава́ны, распу́шчаны; злы, ліхі́. 3. няпра́вільны, скажо́ны; памылко́вы (*і пра прысу́д*): ***perverse reasoning*** памылко́вае развяжа́ньне

**perversity** [pərˈvɜːrsəti] n., pl. **-ties** 1. сапсава́насьць, распу́шчанасьць *f.* (*і ў*

*сэнсе недысцыплінава́насьці*). 2. выраджэ́ньне *n.* (*гу́стаў*). 3. збачэ́нства *n.*

**pervert** [pərˈvɜːrt] – v. 1. зво́дзіць, зьбіва́ць з пра́вільнага шляху́. 2. перакру́чваць, скажа́ць (*сло́вы*). 3. злоўжыва́ць (*сваі́мі здо́льнасьцямі*). 4. выкліка́ць фізы́чнае *або́* мара́льнае выраджэ́ньне; выраджа́цца; зво́дзіцца
– n. [ˈpɜːrvɜːrt] выраджэ́н|ец, збачэ́нец -ца *m.* (*асабл. сэксуа́льны*), дэгенэра́т -а *m.*

**pervious** [ˈpɜːrviəs] adj. 1. прапушча́льны (*для вады́*). 2. які́ паддае́цца ўплы́ву, пада́тлівы; успрыі́млівы

**pessimism** [ˈpesəˌmɪzəm] n. пэсымі́зм -у *m.*

**pessimist** [ˈpesəmɪst] n. пэсымі́ст -а *m.*, пэсымі́стка *f.*

**pessimistic** [ˌpesəˈmɪstɪk] adj. пэсымісты́чны

**pest** [pest] n. 1. даку́ка *f.*, назо́ла *f.* (*і пра асо́бу*). 2. Archaic зара́за, чума́ *f.*, мор -у *m.* 3. Bot., Zool. шко́днік -а *m.*

**pester** [ˈpestər] v. назаля́ць, надакуча́ць

**pesticide** [ˈpestɪsaɪd] n. пэстыцы́д -у *m.*

**pestiferous** [peˈstɪfərəs] adj. 1. які́ разно́сіць зара́зу або́ хваро́бу. 2. шко́дны (*і пра ўплы́ў*). 3. Informal назо́йлівы, назо́льны

**pestilence** [ˈpestɪləns] n. эпідэ́мія *f.*; зара́за *f.*, мор -у *m.*

**pestilential** [ˌpəstɪˈlenʃəl] adj. 1. зара́зны. 2. шко́дны. 3. небясьпе́чны; згу́бны

**pestle** [ˈpesəl] – n. таўка́чык -а *m.*
– v. таўчы́, мяць

**pet I** [pet] – n. 1. ха́тняя жывёла (*саба́ка, кот*). 2. пясту́н пестуна́ *m.*, песту́н|о́к -ка́ *m.*, пясту́ха *f.*; улюбён|ец -ца *m.*, улюбёнка *f.*
– adj. ласка́льны: ***a pet name*** ласка́льнае імя́
– v. 1. ласка́ць, ла́шчыць; пе́сьціць. 2. патура́ць *каму́*; расьпе́шчваць *каго́*

**pet II** [pet] n. благі́ гу́мар; раздражнёнасьць; сварлі́васьць *f.*

**petal** [ˈpetəl] n. пялёст|ак -ка *m.*

**petiole** [ˈpetioʊl] n., Bot. чарано́к ліста́

**petite** [pəˈtiːt] adj. малы́; мале́нькі, мало́га паме́ру (*пра во́пратку*)

**petition** [pəˈtɪʃən] – n. 1. зая́ва *f.*, афіцы́йная про́сьба, пэты́цыя *f.* 2. стара́ньне *n.*: ***a petition for a new school*** стара́ньне пра но́вую шко́лу. 3. малі́тва *f.*
– v. 1. мо́цна прасі́ць, дамага́цца. 2. падава́ць про́сьбу, пэты́цыю

**petitionary** [pəˈtɪʃəneri] adj. які́ зьмяшча́е ў сабе́ про́сьбу, про́сьбітны

**petitioner** [pəˈtɪʃənər] n. про́сьбіт -а *m.*, про́сьбітка *f.*

**petrifaction** [ˌpetrɪˈfækʃən] n. 1. акамяне́ньне *n.* 2. акамяне́ласьць *f.* 3. не́шта акамяне́лае

**petrify** [ˈpetrɪfaɪ] v., **-fied, -fying** 1. камяне́ць. 2. рабі́цца цьвярды́м, нягну́ткім. 3. камяне́ць, абміра́ць (*ад стра́ху, нечака́насьці*)

**petrol** [ˈpetrəl] n., esp. Brit. бэнзі́н -у *m.*, газалі́н -у *m.*

**petroleum** [pəˈtroʊliəm] n. 1. на́фта *f.* 2. га́за *f.*

**petticoat** [ˈpetɪkoʊt] – n. 1. спо́дня *f.*, ні́жняя спадні́ца, га́лька *f.* 2. спадні́ца *f.* 3. Sl. жанчы́на, дзяўчы́на *f.*
– adj. жано́чы: ***petticoat influence*** жано́чы ўплы́ў

**pettish** [ˈpetɪʃ] adj. зласьлі́вы; крывы́; капры́зьлівы: ***a pettish reply*** зласьлі́вы адка́з; ***a pettish child*** капры́зьлівае дзіця́

**petty** [ˈpeti] adj. 1. малава́жны, малава́ртасны; дро́бязны, малы́: ***petty troubles*** дро́бязныя турбо́ты. 2. дро́бязны; по́дленькі, абмежава́ны, недалёкі. 3. ніжэ́йшы (*ра́нгам*)
• ***petty cash*** невялі́кія падру́чныя гро́шы
• ***petty theft*** дро́бны крадзе́ж
• ***petty officer*** старшына́ (*у флёце*)

**petulance** [ˈpetʃələns] n. зласьлі́васьць, нецярплі́васьць *f.*, дрэ́нны настро́й

**petulant** [ˈpetʃələnt] adj. зласьлі́вы; нецярплі́вы; ура́зьлівы

**pew** [pju:] n. ла́ўка *f.* (*у касьце́ле, царкве́*)

**pewter** [ˈpju:tər] – n. 1. сплаў сьвінца́ з во́лавам, ме́дзьдзю. 2. алавя́ны по́суд
– adj. алавя́ны

**phantom** [ˈfæntəm] – n. 1. здань *f.*, пры́від, фанто́м -а *m.* 2. ілю́зія *f.*
– adj. 1. пры́відны. 2. уя́ўны, несапра́ўдны, ілюзо́рны

**pharmaceutical** [ˌfa:rməˈsu:tɪkəl] – adj. фармацэўты́чны, ле́кавы (*вы́рабы*): ***pharmaceutical scales*** аптэка́рская вага́
– n. фармацэўты́чны вы́раб, лек -у *m.*

**pharmacist** [ˈfa:rməsɪst] n. аптэ́кар -а *m.*

**pharmacologist** [ˌfa:rməˈka:lədʒɪst] n. фармако́ляг -а *m.*

**pharmacology** [ˌfa:rməˈka:lədʒi] n. фармакалёгія *f.*

**pharmacy** [ˈfa:rməsi] n., pl. **-cies** 1. аптэ́ка *f.* 2. фармацэ́ўтыка *f.*

**pharynx** [ˈfærɪŋks] n., pl. **-es** or **pharynges**, Anat. гло́тка *f.*

**phase** [feɪz] n. 1. фа́за *f.* 2. ква́дра *f.* (*ме́сяца*)

**pheasant** [ˈfezənt] n., pl. **-ants** or (esp. coll.) **-ant** фаза́н -а *m.*

**phenomena** [fəˈna:mɪnə] n., *pl. of* **phenomenon**

**phenomenal** [fəˈna:mɪnəl] adj. надзвыча́йны, фэнамэна́льны

**phenomenon** [fəˈna:məna:n] n., pl. **-na** or (*esp. for 2*) **-nons** 1. зья́ва *f.* 2. фэно́мэн -а *m.*

**philanthropic** [ˌfɪlənˈθra:pɪk] adj. 1. філянтрапі́чны (*арганіза́цыя*). 2. дабрадзе́йны, дабрачы́нны; добразычлі́вы, паслу́жлівы

**philanthropist** [fɪˈlænθrəpɪst] n. філянтро́п -а, дабрадзе́ій -я, дабрачы́нец -ца *m.*; філянтро́пка *f.*, дабрадзе́йка, дабрачы́нка *f.*

**philanthropy** [fɪˈlæntθrəpi] n., pl. **-pies** 1. чалаве́калю́бства *n.* 2. дапамо́га бе́дным, дабрадзе́йнасьць *f.*, філянтро́пія *f.*

**philippic** [fɪˈlɪpɪk] n. філі́піка *f.*

**philological** [ˌfɪləˈla:dʒɪkəl] adj. філялягі́чны

**philologist** [fɪˈla:lədʒɪst] n. філёляг -а *m.*

**philology** [fɪˈla:lədʒi] n. філялёгія *f.*

**philosopher** [fəˈla:səfər] n. філёзаф -а *m.*

**philosophy** [fəˈla:səfi] n. філязо́фія *f.*

**phlegm** [flem] n. 1. фле́гма, макро́та, сьлізь *f.* 2. спако́й, абыя́кавасьць да ўсяго́

**phlegmatic** [flegˈmætɪk] adj. 1. паво́льны, мару́дны; абыя́кавы. 2. спако́йны, ураўнава́жаны, флегматы́чны

**phobia** [ˈfoʊbiə] n. 1. фо́бія *f.* (*хваравíты страх*). 2. Informal вялі́кая агі́да, антыпа́тыя

**phone** [foʊn] – n., Informal, *short for* **telephone** тэлефо́н -у *m.*
– v. тэлефанава́ць

**phonetic** [fəˈnetɪk] adj. фанэты́чны

**phonetically** [fəˈnetɪkəli] adv. фанэты́чна

**phonetician** [foʊnɪˈtɪʃən] n. фанэты́ст -а *m.*, фанэты́стка *f.*

**phonetics** [fəˈnetɪks] n. фанэ́тыка *f.*

**phony** [ˈfoʊni] – adj., Sl. несапра́ўдны, падро́блены; удава́ны, няшчы́ры, шту́чны
– n. не́шта падро́бленае; шарлата́н -а *m.*

**phosphate** [ˈfa:sfeɪt] – n. фасфа́т -у *m.*
– adj. фасфа́тавы, фасфа́тны (*напр. угнае́ньні*)

**phosphide** [ˈfa:sfaɪd] – n., Chem. фасфі́д -у *m.* (*спалучэ́ньне фо́сфару з мэта́лам*)
– adj. фасфі́давы, фасфі́дны

**phosphite** [ˈfa:sfaɪt] – n. фасфары́т -у *m.* (*го́рная паро́да*)
– adj. фасфары́тавы, фасфары́тны

**phosphoresce** [ˌfa:sfəˈres] v. фасфары́цца, сьвяці́цца фасфары́чным сьвятло́м

**phosphorescent** [ˌfa:sfəˈresənt] adj. фасфары́чны

**phosphoric** [fa:sˈfɔ:rɪk] adj. фо́сфарны (*напр. пах, сьвятло́*)

**phosphoric acid** фо́сфарная кіслата́

**phosphorous** [ˈfɑ:sfərəs] adj. фо́сфарысты

**phosphorus** [ˈfɑ:sfərəs] n. фо́сфар -у *m.*

**photogenic** [ˌfoutəˈdʒenɪk] adj. фатагені́чны

**photograph** [ˈfoutəgræf] – n. фатазды́м|ак, зды́м|ак -ка *m.*, фатагра́фія *f.* – v. 1. рабі́ць зды́мкі, фатаграфава́ць. 2. выхо́дзіць до́бра на зды́мку: ***She does not photograph well*** Яна́ не выхо́дзіць до́бра на зды́мках

**photographer** [fəˈtɑ:grəfər] n. фато́граф -а *m.*

**photographic** [ˌfoutəˈgræfɪk] adj. фатаграфі́чны

**photography** [fəˈtɑ:grəfi] n. фатаграфава́ньне *n.*, фатагра́фія *f.*

**photostat** [ˈfoutəstæt] n. фатаста́т -а *m.* а) фатаграфі́чны апара́т для капіява́ньня. б) фатагра́фія, ко́пія *f.*

**phrase** [freɪz] n. вы́раз -у *m.*; усто́йлівы мо́ўны зваро́т; сказ -у *m.*, фра́за *f.*: ***He spoke in simple phrases*** Ён гавары́ў про́стымі ска́замі

**phraseology** [ˌfreɪziˈɑ:lədʒi] n., pl. **-gies** фразэалёгія *f.*

**phylum** [ˈfaɪləm] n., pl. **-la** [-lə], Biol. тып -у *m.* (*катэго́рыя ў сыстэматыза́цыі расьлі́наў і жывёлаў*)

**physical** [ˈfɪzɪkəl] adj. 1. фізы́чны; матэрыя́льны; цяле́сны: ***physical exercise*** фізы́чная зара́дка

**physically** [ˈfɪzɪkəli] adv. фізы́чна: ***physically fit*** у фо́рме (*пра спарто́ўца*)

**physician** [fɪˈzɪʃən] n. ле́кар, до́ктар -а *m.*

**physicist** [ˈfɪzɪsɪst] n. фі́зык -а *m.*

**physics** [ˈfɪzɪks] n. 1. фі́зыка *f.* 2. падру́чнік фі́зыкі. 3. ле́кцыя фі́зыкі

**physiological** [ˌfɪziəˈlɑ:dʒɪkəl] adj. фізіялягі́чны: ***Digestion is a physiological process*** Стравава́ньне — фізіялягі́чны працэ́с

**physiologist** [ˌfɪziˈɑ:lədʒɪst] n. фізіёляг -а *m.*

**physiology** [ˌfɪziˈɑ:lədʒi] n. фізіялёгія *f.*

**physique** [fɪˈzi:k] n. це́ла *n.*; склад це́ла: ***a man of strong physique*** мужчы́на з мо́цным целаскла́дам

**pianist** [piˈænəst] n. піяні́ст -а *m.*, піяні́стка *f.*

**piano I** [piˈænou] n., pl. **-os** піяні́на *n.*: ***to play piano*** граць на піяні́не

**piano II** [pɪˈɑ:nou] adj., adv., Mus. пія́на

**picaresque** [pɪkəˈresk] adj. аванту́рны; бага́ты на прыго́ды, прыго́дніцкі: ***a picaresque novel*** аванту́рны рама́н

**picaroon** [pɪkəˈru:n] – n. 1. жу́лік -а *m.*, зло́дзе|й -я *m.*, разбо́йнік -а *m.* 2. піра́т -а *m.* 3. піра́цкі вадапла́ў – v. займа́цца піра́цтвам *або́* разбо́ем

**pick I** [pɪk] – v.t. 1. выбіра́ць. 2. зрыва́ць (*я́блыкі з дрэ́ва*); рваць: ***We pick flowers*** Мы рвем кра́скі. 3. зьбіра́ць: ***We pick mushrooms*** Зьбіра́ем грыбы́. 4. прадзёўбваць чым-н. во́стрым (*зямлю́, скалу́*). 5. а) калупа́ць, выкалу́пваць (*напр. зу́бы зубачы́сткай*). б) абгрыза́ць ко́сткі. 6. Informal абкрада́ць: ***to pick a purse*** скра́сьці з то́рбачкі; ***to pick one's brain*** вы́карыстаць чыю́сь ве́ду, ідэ́ю. 7. ску́бці (*ку́рыцу*). 8. а) (at) дзяўбці́ (*зе́рне, пра пту́шку*), куса́ць мале́нькімі кава́лачкамі без апэты́ту. б) чапля́цца да *каго́-чаго́* – n. 1. вы́бар -у *m.* 2. сабра́нае *n.*, збор -у *m.* (*збо́жжа, я́блыкаў*). 3. Informal найле́пшая ча́стка

• ***pick out*** а) выбіра́ць з *чаго́*. б) разуме́ць, лаві́ць сэнс

• ***pick up*** а) падыма́ць. б) заеха́ць па *каго́*, забра́ць *што*: ***to pick up a coat at the cleaner's*** забра́ць паліто́ з чы́сткі. в) дада́ць сі́лы, адва́гі; падсілкава́ць, падбадзёрыць. г) навучы́цца, авало́даць чым-н. д) злаві́ць (*радыёпраграму*). ж) паскара́ць (*крок, хаду́*). з) прыбра́ць, спара́дкаваць (*пако́й*)

**pick II** [pɪk] or **pickaxe** [ˈpɪkæks] n. кірка́ *f.*

**picker** [ˈpɪkər] n. 1. зьбіра́льнік -а *m.* (*баво́ўны, плadóў*). 3. машы́на для зьбіра́ньня *або́* сартава́ньня

**pickerel** [ˈpɪkərəl] n. род мало́га шчупака́

**picket** [ˈpɪkət] – n. 1. кол, убíты ў зямлю́. 2. вартаўнíчая застáва. 3. пікéт -у *m.*
– v.t. 1. абгарóджваць частакóлам. 2. прывя́зваць да слупá (*каня́*). 3. расстаўля́ць пікéты (*падчáс стрáйку*). 4. пікетавáць

**picket fence** частакóл -у *m.*

**pickle** [ˈpɪkəl] – n. 1. расóл -у *m.*; марынáд -у *m.* 2. сóленыя гуркí. 3. Informal непрыéмнасьці, ця́жкасьці *pl.*
– v.t. 1.салíць; марынавáць (*грыбы́, гуркí*). 2. чы́сьціць кíслатóю

**pickled** [ˈpɪkəld] adj. сóлены (*гурóк*), марынавáны (*грыбы́*)

**pickpocket** [ˈpɪkˌpɑ:kət] n. 1. кішэ́нны злóдзей. 2. кішэ́ньнік -а *m.*

**picky** [ˈpɪki] adj. перабóрлівы, прыдзíрлівы

**picnic** [ˈpɪknɪk] – n. 1. маёўка *f.*, пікнíк -á *m.* 2. Sl. прыéмнасьць *f.*, прыéмнае баўлéньне чáсу; вéльмі лёгкая прáца: ***It is no picnic*** Гэ́та не гульня́
– v.i. лáдзіць пікнíк

**picnic ham** вэ́нджаная сьвінáя лапáтка

**picnicker** [ˈpɪknɪkər] n. удзéльнік *абó* удзéльніца пікнікá

**pictograph** [ˈpɪktəgræf] n. піктагрáма *f.* (*умóўны малю́нак*)

**pictorial** [pɪkˈtɔ:riəl] – adj. 1. малю́нкавы (*пра пісáньне*). 2. ілюстравáны. 3. мастáцкі, маляўнíчы. 4. жывы́, я́скрáвы, вырáзны (*пра раскáз, стыль*)
– n. ілюстравáны чáсапіс

**picture** [ˈpɪktʃər] – n. 1. малю́н|ак -ку *m.*; карцíна *f.*; партрэ́т -а *m.*, здым|ак -ка *m.*, фатагрáфія *f.* 2. від -у *m.* 3. кóпія *f.*, вялíкае падабéнства: ***She is a picture of her mother*** Янá — вы́літая мáці. 4. нéшта вéльмі прыгóжае. 5. кінó *n.*, *indecl.*, фільм -у *m.*
– v.t. 1. малявáць. 2. уяўля́ць. 3. жы́ва, вóбразна апíсваць

**picturesque** [ˌpɪktʃəˈresk] adj. 1. маляўнíчы. 2. вóбразны; жывы́ (*апісáньне*)

**pie I** [paɪ] n. 1. пірóг (*начы́нены садавінóй абó мя́сам*)
• ***have a finger in the pie*** Informal брáць удзéл; быць замéшаным у чым-н.

**pie II** [paɪ] n. сарóка *f.*

**piece** [pi:s] – n. 1. кавáл|ак, кавáлач|ак -ка *m.*: ***The cup broke in pieces*** Кýбак пабíўся на кавáлкі; ***a piece of land (of bread)*** кавáлак зямлí (хлéба). 2. прадмéт -а *m.*, штýка *f.*: ***This set of china has 24 pieces*** Гэ́ты набóр пóсуду мáе двáццаць чаты́ры прадмéты. 3. манэ́та *f.* 4. п’éса *f.*; твор -у *m.*: ***a piece of music*** музы́чны твор; ***a piece of art*** мастáцкі твор. 5. пры́клад -у *m.*: ***a piece of impudence*** пры́клад нахáбства
– v. 1. лáтаць, прáвіць; датóчваць. 2. злучáць у аднó цэ́лае; зьбірáць з кавáлкаў
• ***go to pieces*** а) біцца удрýзг. б) занепадáць фізы́чна *абó* марáльна
• ***piece of one’s mind*** шчы́рыя, адкры́тыя выкáзваньні, парáды. б) вымóва; лáянка
• ***speak one’s piece*** выкáзваць сваé дýмкі

**piecework** [ˈpi:swɜ:rk] n. зьдзéльная прáца

**pieceworker**[ˈpi:swɜ:rkər] n. зьдзéльшчык -а *m.*, зьдзéльшчыца *f.*

**pier** [pɪr] n. 1. пры́стань *f.* 2. хваляломó -а *m.*, мол -а *m.* 3. слуп слупá *m.*; пáля *f.*; бык -á *m.* (*апóра мóста*). 4. міжвакóньне *n.*, прасьцéн|ак -ка *m.*

**pierce** [pɪrs] v. 1. увахóдзіць, прахóдзіць праз *штó*: ***A tunnel pierces the mountain*** Тунэ́ль прахóдзіць праз гарý. 2. пракóлваць, прабівáць дзíрку: ***A heart pierced with grief*** Сэ́рца прабíтае бóлем

**piercing** [ˈpɪrsɪŋ] adj. пранíклівы (*пóгляд*), вóстры, пранíзьлівы (*пра боль*)

**pier glass** трумó, *indecl.*

**pietism** [ˈpaɪəˌtɪzəm] n. 1. піеты́зм -у *m.* 2. глыбóкая пабóжнасьць. 3. фальшы́вая, няшчы́рая пабóжнасьць

**piety** [ˈpaɪəti] n., pl. **-ties** 1. пабóжнасьць *f.* 2. пашáна да бацькóў

**pig** [pɪg] – n. 1. сьвіньня́ *f.* 2. парасё *n.*, падсьві́н|ак -ка *m.* 3. Informal сьвіньня́ *f.* (*пра неахайнага, пра́гнага або́ несумле́ннага чалаве́ка*)
– v. парасі́цца
• ***buy a pig in a poke*** купля́ць ката́ ў мяху́
• ***pig out***, Sl. наяда́цца, аб'яда́цца

**pigeon** [ˈpɪdʒən] n., pl. **-geons** or (coll.) **-geon** 1. го́луб -а *m.*: ***female pigeon*** галу́бка *f.* 2. Sl. наі́ўны прасьця́к

**piggery** [ˈpɪgəri] n., pl. **-geries**, esp. Brit. сьвіна́рнік -а *m.*, сьвіну́шнік -а *m.*; хлеў хлява́ *m.*

**piggish** [ˈpɪgɪʃ] adj. 1. сьвіня́чы, сьві́нскі. 2. пра́гны, бру́дны

**piggy** [ˈpɪgi] n., pl. **-gies** сьві́нка *f.*, парася́тка *n.*

**piggyback** [ˈpɪgibæk] – adv. на барана́: ***father carried the child piggyback*** ба́цька насі́ў дзіця́ на барана́
– v. насі́ць на барана́

**piggy bank** скарбо́нка *f.*

**pig iron** чыгу́н -у́ *m.*

**piglet** [ˈpɪglət] n. парася́, парася́тка *n.*

**pigment** [ˈpɪgmənt] n. пігмэ́нт -у *m.*

**pigpen** [ˈpɪgpen] n. 1. сьвіна́рнік, сьвіну́шнік -а *m.* 2. бру́днае ме́сца (*пако́й*)

**pigskin** [ˈpɪgskɪn] n. 1. сьвіна́я ску́ра. 2. Informal футбо́льны мяч

**pigsty** [ˈpɪgstaɪ] n., pl. **-sties** *гл.* **pigpen**

**pigtail** [ˈpɪgteɪl] n. каса́ *f.*, ко́ска *f.* (*з валасо́ў*)

**pike I** [paɪk] n. дзі́да *f.*

**pike II** [paɪk] n. шчупа́к -а́ *m.*

**pike III** [paɪk] n. *гл.* **turnpike**

**pile I** [paɪl] – n. 1. сьці́рта *f.*; шта́бел|ь -я *m.*; стос, стус -а *m.* (*папе́ры, кні́гаў*); шу́рка (*дро́ваў*): ***pile of wood*** шу́рка дро́ваў. 2. ку́ча *f.*: ***pile of dirt*** ку́ча зямлі́. 3. Informal мно́ства *n.*, про́цьма *f.*: ***a pile of work (dishes)*** мно́ства пра́цы (по́суду). 4. Electr. батарэ́я *f.*
– v. 1. склада́ць у сьці́рты, шу́ркі; ськіда́ць на ку́чу: ***to pile up*** намята́ць, нано́сіць го́рбы (*сьне́гу, пяску́*)

**pile II** [paɪl] n. 1. во́рс -у *m.* (*на аксамі́це, ваўня́най ткані́не*). 2. то́нкі, мя́ккі во́лас *або́* пух

**piled** [paɪld] adj. во́рсавы, з во́рсам

**pilfer** [ˈpɪlfər] v. скра́сьці, ухапі́ць, сьцягну́ць, прысабе́чыць

**pilgrim** [ˈpɪlgrɪm] n. 1. пілігры́м -а *m.*; пало́мнік -а *m.*, пало́мніца *f.*; багамо́л|ец -ьца *m.*, багамо́лка *f.* 2. вандро́ўнік, падаро́жнік -а *m.*

**pilgrimage** [ˈpɪlgrɪmɪdʒ] n. пілігры́мка *f.*, пало́мніцтва, багамо́льле *n.*

**pill** [pɪl] n. пілю́ля *f.* (*лек*); пігу́лка *f.*; табле́тка *f.*
• ***the pill*** пігу́лка супро́ць цяжа́рнасьці

**pillage** [ˈpɪlɪdʒ] – v. рабава́ць (*з разбо́ем*)
– n. рабу́н|ак -ку *m.*

**pillar** [ˈpɪlər] n. 1. калёна *f.*; абэлі́ск -а *m.* 2. ва́жная апо́ра, стоўп стаўпа́ *m.*: ***pillars of society*** стаўпы́ грама́дзтва

**pillbox** [ˈpɪlbɑːks] n. 1. скры́начка на пілю́лі або́ табле́ткі. 2. Milit. дот -а *m.*

**pillow** [ˈpɪloʊ] n. паду́шка *f.*

**pillowcase** [ˈpɪləkeɪs] or **pillowslip** [ˈpɪloʊslɪp] n. навало́чка, наўле́чка *f.*

**pilot** [ˈpaɪlət] – n. 1. лётчык -а, пілёт -а *m.* (*паве́траны й марскі́*). 2. ло́цман -а *m.* 3. праваднік -а́ *m.*, праваднíца *f.*
– v. 1. ве́сьці, кірава́ць самалётам, караблём; пілятава́ць. 2. право́дзіць, быць правадніќо́м
adj. пілёцкі
• ***pilot light*** дыжу́рны аге́ньчык
• ***pilot star*** право́дная зо́рка

**pilotage** [ˈpaɪlətɪdʒ] n. 1. пілята́ж -у *m.* 2. пілятава́ньне *n.* 3. пілёцкі, ло́цманскі заро́бак

**pimple** [ˈpimpəl] n. прышч -а́ *m.*, пры́шчык -а *m.*

**pimply** [ˈpimpli] adj. прышчава́ты, з прышча́мі

**pin** [pin] – n. 1. шпі́лька *f.*; бро́шка *f.*, значо́|к -ка́ *m.*: ***a safety pin*** агра́фка *f.*; ***a clothes pin*** за́шчапка *f.* (*для бялі́зны*). 2. кало́|к -ка́ *m.* (*у музы́чных інструмэ́нтах*)

– v.t. 1. прышпі́льваць. 2. сашчапля́ць; прымацо́ўваць (*шпі́лькай*). 3. прыду́шваць, прыва́льваць
• ***on pins and needles*** як на го́лках
• ***pin down*** прыму́сіць стрыма́ць абяца́ньне

**pincers** [ˈpinsərz] n., pl. or sing. 1. абцугі́ *pl. only*; шчы́пцы *pl. only*; кле́шчы *pl. only* (*кава́льскія*). 2. Zool. клю́шня *f.* (*напр. у ра́ка*). 3. Milit. кле́шчы *pl.* (*акружэ́ньне з двух бако́ў*)

**pinch** [pɪntʃ] – v.t. 1. прышчамі́ць; прыці́снуць; ушчы́пнуць. 2. сьці́снуць. 3. зьмізарне́ць, схудне́ць, здрабне́ць; асу́нуцца: ***a face pinched by hunger*** твар зьмізарне́ў ад го́ладу. 4. быць скупы́м, скупі́цца. 5. Sl. скра́сьці; ухапі́ць *pf.*
– n. 1. шчыпlо́к -ка́ *m.* 2. дро́бка *f.*: ***a pinch of salt*** дро́бка со́лі. 3. го́ра *n.*, бяда́ *f.*: ***in a pinch*** у бядзе́. 4. цяжко́е стано́вішча. 5. Sl. крадзе́ж крадзяжу́ *m.*, зладзе́йства *n.*

**pincushion** [ˈpɪnˌkʊʃən] n. паду́шачка для шпі́лек, го́лак

**pine I** [paɪn] n. хво́я, сасна́ *f.*

**pine II** [paɪn] v. 1. тужы́ць па *кім*. 2. со́хнуць (*ад тугі́, бо́лю, хваро́бы*)

**pineapple** [ˈpaɪnæpəl] – n. 1. анана́с -а *m.* 2. Sl. ручна́я грана́та *або́* бо́мба.
– adj. анана́савы, анана́сны

**pine needle** хваёвая го́лка

**pink I** [pɪŋk] – n. 1. ружо́вы ко́лер. 2. гвазьдзі́к -а́ *m.* 3. Informal вышыня́ *f.*, верх -у *m.*: ***pink of perfection*** верх дасканáласьці.
– adj. ружо́вы. 2. Informal чырванава́ты, памяркоу́на радыка́льны

**pink II** [pɪŋk] n. прабіва́ць мячо́м *або́* дзі́дай

**pinnace** [ˈpɪnəs] n. ка́тэр -а *m.*

**pinnacle** [ˈpɪnəkəl] – n. 1. высо́кая вярша́ліна гары́. 2. вяршы́ня *f.* (*сла́вы*), зэні́т -у *m.* 3. сьпіча́стая ве́жачка
– v. узво́дзіць, будава́ць ве́жы

**pioneer** [ˌpaɪəˈnɪr] – n. 1. піянэ́р -а *m.*, пе́ршы пасяле́нец. 2. пачына́льнік, ініцыя́тар -а *m.* 3. Milit. сапёр -а *m.*
– v. быць пачына́льнікам

**pious** [ˈpaɪəs] adj. набо́жны, пабо́жны

**piously** [ˈpaɪəsli] adv. набо́жна, пабо́жна

**pip I** [pɪp] n. 1. зярня́тка я́блыка, ара́нжыка. 2. Sl. асо́ба *або́* рэч ве́льмі прыго́жая, захапля́льная, надзвыча́йная: ***She's really a pip*** Яна́ сапра́ўдная я́гадка

**pip II** [pɪp] n. 1. во́чка (*на ігра́льнай ка́рце ці даміно́*). 2. Brit., Sl. афіцэ́рская зо́рка (*на паго́нах*)

**pip III** [pɪp] – v.i. **-pp-** пішчэ́ць, цвы́ркаць
– v.t. выхо́дзіць зь я́йка (*пра птушаня́т*)

**pipe** [paɪp] – n. 1. труба́ *f.* (*напр. вадаправо́дная*). 2. лю́лька, пі́пка *f.* (*для курэ́ньня*). 3. ду́дка, жале́йка *f.*; фле́йта *f.* 4. ***pipes*** а) дуда́ *f.* б) тру́бы арга́наў
– v.i. 1. ігра́ць на жале́йцы, дудзе́ або́ на які́м-н. духавы́м музы́чным інструмэ́нце. 2. сьвіста́ць, пяя́ць, як пту́шка

**pipeline** [ˈpaɪplaɪn] – n. 1. трубаця́г, трубаправо́д -у *m.* (*для вады́, га́зу*); нафтаправо́д -у *m.* 2. крыні́ца інфарма́цыі, звыча́йна неафіцы́йная
– v. 1. перапампо́ўваць трубаправо́дамі. 2. будава́ць трубаправо́ды

**piper** [ˈpaɪpər] n. дуда́р -а́ *m.*; флейты́ст -а *m.*

**piping** [ˈpaɪpɪŋ] – n. 1. тру́бы *pl.* 2. матэрыя́л на тру́бы. 3. ігра́ на ду́дцы. 4. кант -а *m.* (*у суке́нцы або́ і́ншай во́пратцы*)
– adj. прарэ́зьлівы.
• ***piping hot*** ве́льмі гара́чы

**pipsqueak** [ˈpɪpskwi:k] n., Informal нязна́чная, мала́я асо́ба *або́* прадме́т; мале́ча *f.*

**piquancy** [ˈpi:kənsi] n. піка́нтнасьць *f.*

**piquant** [ˈpi:kənt] adj. піка́нтны

**piracy** [ˈpaɪrəsi] n., pl. **-cies** 1. пі́ра́цтва *n.* 2. парушэ́ньне а́ўтарскіх правоў. 3. Informal запро́шваньне празьме́рна высо́кае цаны́

**pirate** [ˈpaɪrət] – n. 1. піра́т -а *m.* 2. піра́цкі карабе́ль

– v.i. займáцца пірáцтвам
– v.t. 1. рабавáць. 2. выдавáць *абó* перадрукóўваць без дазвóлу áўтара
**pistil** [ˈpɪstɪl] n., Bot. пéсьцік -а *m.*
**pistol** [ˈpɪstəl] n. пісталéт -а *m.*
**piston** [ˈpɪstən] n. 1. пóршıань -ня *m.* (*у пóмпе, рухавікý*). 2. пістóн -а *m.*, кля́пан (*у клярнэ́це*)
**pit I** [pɪt] n. 1. я́ма *f.*; я́міна, упáдзіна *f.* 2. шáхта *f.* 3. рáбінка *f.* (*ад вóспы на скýры*). 4. пáстка *f.* (*для зьвéра*)
**pit II** [pɪt] n. кóстачка *f.*, зярня́тка *n.* (*вíшні, сьлíвы, пэ́рсіка*)
**pitch I** [pɪtʃ] – v. 1. кíдаць, шпурля́ць. 2. закідáць (*сéна, салóму на воз*). 3. (*у спóрце*) падавáць. 4. стáвіць (*намёт*); раскідáць, разьбівáць (*ля́гер*). 5. валíцца, ляцéць: ***to pitch down the cliff*** паляцéць уніз са скалы́
– n. 1. пóле (*для гульні́*) *n.* 2. кідıóк -кá *m.* 3. кілевáя гайдáнка караблá. 4. ступéнь *f.*; узрóıвень -ўню *m.*, напрýжаньне *n.* 5. вышыня́ тóну *абó* гýку. 6. нахíл -у *m.* (*дарóгі, узгóрка*)
• ***pitch in*** а) энэргíчна за штó-н. брáцца. б) дапамагáць у прáцы
• ***pitch into*** кíнуцца на кагó-н. з кулакáмі
• ***pitch on*** or ***upon*** сялíцца; выбірáць
**pitch II** [pɪtʃ] – n. смалá *f.*
– v. смалíць, залівáць смалóю
**pitch-dark** [ˌpɪtʃˈdɑ:rk] adj. вéльмі цёмны, цёмны, хоць вóка вы́калі
**pitcher I** [ˈpɪtʃər] n. збан -á, збанıóк -кá *m.*
**pitcher II** [ˈpɪtʃər] n., Baseball гулéц, які́ падаé мяч
**pitchfork** [ˈpɪtʃfɔ:rk] – n. вíлы, вíлкі *pl. only* (*для сéна, салóмы*)
– v. закідáць (*сéна, салóму*) вíламі
**pitchy** [ˈpɪtʃi] adj. 1. смалíсты, смаляны́. 2. лíпкі, як смалá. 3. чóрны, як смалá
**piteous** [ˈpɪtiəs] adj. вáрты жáлю, жáласны
**pitfall** [ˈpɪtfɔ:l] n. 1. пáстка для зьвéра. 2. уся́кая пáстка, схавáная небясьпéка
**pith** [pɪθ] n. 1. асярóдıак -ка *m.* (*сьцяблá*), стры́жıань -ня *m.* (*дрэ́ва*); мя́кіш скýркі апэльсíна. 2. сýтнасьць *f.*, галóўная і сáмая вáжная чáстка чагó-н. 3. сíла *f.*; энэ́ргія *f.*; дóбрае здарóўе
**pitiable** [ˈpɪtiəbəl] adj. 1. жáласны, жáласьлівы, няшчáсны, вáрты жáлю, шкадóбы, пагáрды. 2. нікчэ́мны, паскýдны, нíзкі
**pitiful** [ˈpɪtifəl] adj. 1. жáласьлівы, які́ выклікáе шкадóбу, спагáду. 2. спагáдлівы, міласэ́рны. 3. нíзкі, нікчэ́мны
**pitiless** [ˈpɪtiləs] adj. бязьлíтасны, неміласэ́рны
**pity** [ˈpɪti] – n., pl. **-ies** 1. спачувáньне, шкадавáньне *n.*, спагáда *f.*; лíтасьць *f.*, памілавáньне *n.*: ***It is a pity*** Шкадá! ***What a pity!*** Як шкадá!; ***to have*** or ***take pity on*** зьлíтавацца над *кім*, шкадавáць *кагó*, спагадáць *камý*: ***without pity*** бязьлíтасна, няшчáдна
– v. шкадавáць *кагó*, спачувáць, спагадáць *камý*
• ***for pity's sake*** о, Божа! (*выкáзваючы гнеў, нецярплíвасьць*)
**pizza** [ˈpi:tsə] n. піца *f.*
**placable** [ˈpleɪkəbəl] adj. нязлóсны, незлапóмны; лагóдны, рахмáны
**placate** [ˈpleɪkeɪt] v. супакóйваць; замірáць, прымірáць, уціхамíрваць
**place** [pleɪs] – n. 1. мéсца *n.*; мясьцíна *f.* 2. мéста *n.*, гóрад -у *m.*; вёска *f.*, раён -у *m.* 3. дом -у *m.* 4. ранг -у *m.*, мéсца *n.*, станóвішча *n.*: ***place in life*** мéсца ў жыцьцí
– v.t. стáвіць; клáсьці
• ***give*** or ***make place*** саступáць мéсца *камý-чамý*
• ***go places*** Sl. хýтка рýхацца ўгарý ў жыцьцí
• ***in place*** а) на мéсцы. б) адпавéдны, своечасóвы
• ***in place of*** замíж, замéст *кагó-чагó*
• ***out of place*** а) не на сваíм мéсцы, не да мéсца. б) неадпавéдны, недарэ́чны; няўчáсны, не ў парý

*• **take place*** адбывáцца

*• **take someone's place*** замяняць *кагó*

**place mats** падклáдкі на стол (*клáдзеныя пад талéрку*)

**placenta** [plə'sentə] n., pl. **-tae** or **-tas** 1. пасьлéд -у *m.*, пляцэ́нта *f.* 2. Bot. семянóс|ец -ца *m.*

**place setting** сталóвы прыбóр для аднаé асóбы

**placid** ['plæsɪd] adj. спакóйны: ***a placid lake*** спакóйнае вóзера

**placidity** [plə'sɪdəti] n. цíша, цішыня *f.*, спакó|й -ю *m.*

**placket** ['plækɪt] n. разрэ́з -у *m.*, кішэ́ня *f.* (*у спадніцы*)

**plagiarism** ['pleɪdʒə,rɪzəm] n. плягіят -у *m.*

**plagiarist** ['pleɪdʒərɪst], n. плягіятар -а *m.*

**plagiarize** ['pleɪdʒəraɪz] v. займáцца плягіятам

**plague** [pleɪg] – n. 1. чумá *f.* 2. бядá, пляга *f.*, бéдзтва *n.*, насланьнё, няшчáсьце *n.*: ***a plague of rats*** няшчáсьце ад пацукóў

– v.t. мýчыць, назаляць, дапякáць

**plaid** [plæd] n. 1. шатляндка *f.* (*тканíна*). 2. плед -а *m.* (*чáстка шкóцкай вóпраткі*)

**plain** [pleɪn] – adj. 1. ясны, лёгка зразумéлы. 2. яўны, íсны, відавóчны, безумóўны: ***plain foolishness*** прóста дурнóта. 3. прóсты (*пра адкáз, сукéнку, чалавéка*): ***plain people*** прóстыя людзі. 4. непрыгóжы, непрывáбны: ***a plain girl*** прóстая, немудрагéлістая дзяўчына. 5. сумлéнны, шчыры (*пра гýтарку, адкáз*). 6. рóўны, глáдкі

– adv. прóста, ясна

– n. раўнíна, рóўнядзь *f.*, стэп -у *m.*

**plains** pl. прэ́рыі; стэ́п

**plainly** ['pleɪnli] adv. прóста; ясна.

**plain-spoken** [,pleɪn'spoukən] adj. прóсты, шчыры ў гýтарцы, просталінéйны

**plaintiff** ['pleɪntɪf] n., Law прóсьбіт -а *m.* (*у судзé*)

**plaintive** ['pleɪntɪv] adj. жалóбны; тужлíвы, нýдны; сýмны

**plait** [pleɪt] n. 1. касá (*заплéценая*). 2. склáдка *f.*

**plan** [plæn] – n. 1. плян -у *m.* 2. праéкт -у *m.*; чарт|цёж -цяжá *m.*; схéма *f.*

– v. 1. абдýмваць, абмяркóўваць; плянавáць: ***to plan a trip*** заплянавáць паéздку. 2. рабíць чарцёж *абó* схéму. 3. складáць плян

**plane I** [pleɪn] – n. 1. рóўная павéрхня. 2. узрó|вень -ўня *m.*, ступéнь *f.*: ***Try to keep the work on a high plane*** Старáйся трымáць сваю прáцу на высóкім узрóўні. 3. самалёт -а *m.* 4. Geom. плóскасьць *f.*

– adj. 1. плóскі, рóўны. 2. плóскасны (*пра геамэтрычную фігýру*)

– v. падарóжнічаць самалётам

**plane II** [pleɪn] n. плятáн -а *m.* (*дрэ́ва*)

**plane III** [pleɪn] – n. гэ́б|аль -ля *m.*; рубáн|ак -ка *m.*; струг -а *m.* (*сталярская прылáда*)

– v. стругáць, габлявáць, выглáджваць рубáнкам

**planet** ['plænɪt] n. плянэ́та *f.*

**planetarium** [,plænə'teriəm] n. плянэтáры|й -я *m.*

**planetary** ['plænəteri] adj. 1. плянэ́тны; плянэтáрны (*пра тумáннасьці*). 2. блукáючы

*• **planetary system*** сóнечная сыстэ́ма

**plank** [plæŋk] – n. дóшка *f.*

– v. абабівáць, абшалёўваць; высьцілáць, насьцілáць (*дóшкамі*)

**planking** ['plæŋkɪŋ] n. 1. абшалёўваньне *n.* 2. дашчáная аблямóўка *абó* абшыўка

**plant** [plænt] – n. 1. расьлíна, расьцíна *f.* 2. рассáда *f.* (*гарóдніны, кветак*); флянс -а, сáджан|ец -цá *m.* (*дрэ́ваў, кустóў*). 3. завóд -у *m.*: ***chemical plant*** хімíчны завóд

– v. 1. садзíць. 2. засáджваць (*напр. квéткамі, бýльбай*); насáджваць (*напр. сад*). 3. пускáць для развóду (*рыбу*). 4. мóцна ўстаўляць, уты-

ка́ць; ста́віць (*ва́рту*) 5. засно́ўваць *pf.* (*калёнію, го́рад*) ***planting of a forest*** паса́дка ле́су

**plantation** [plænˈteɪʃən] n. 1. плянта́цыя *f.* (*баво́ўны, цу́кру, тытуню́*). 2. вялікае насаджэ́ньне (*дрэ́ваў або́ іншых расьлі́наў*). 3. калёнія *f.*

**planter** [ˈplæntər] n. 1. плянта́тар -а *m.* 2. машы́на для саджэ́ньня, саджа́лка *f.* 3. саджа́льнік -а *m.*, саджа́льніца *f.*

**plash** [plæʃ] v., n. *гл.* **splash**

**plaster** [ˈplæstər] – n. 1. тынк -у *m.* 2. гіпс -у *m.* 3. пля́стыр -а *m.* (*для закле́йваньня ра́наў*)

– v.t. 1. тынкава́ць. 2. наклада́ць пля́стыр. 3. нама́зваць, абма́зваць

**plaster cast** гі́псавая павя́зка

**plasterer** [ˈplæstərər] n. тынко́ўшчык -а *m.*

**plastering** [ˈplæstərɪŋ] n. тынкава́ньне *n.*

**plastic** [ˈplæstɪk] – adj. 1. пля́стыкавы : ***plastic cups*** пля́стыкавыя ку́бачкі. 2. плясты́чны, а) ***a plastic art*** плясты́чнае маста́цтва (*скульпту́ра*). б) ***a plastic substance*** плясты́чнае рэ́чыва. 3. падаўкі́ на ўплы́ў, успрыма́льны

– n. плястма́са *f.*

**plasticine** [ˈplæstəsi:n] n. плястылі́н -у *m.*

**plasticity** [plæˈstɪsəti] n. плясты́чнасьць *f.*

**plastic surgery** плясты́чная хірургі́я

**plate** [pleɪt] – n. 1. тале́рка *f.* 2. стра́ва *f.* 3. пазало́чаны *або́* пасярэ́браны по́суд. 4. то́нкая пляска́тая плі́тка *або́* ліст (*мэта́лу*)

– v. 1. залаці́ць, серабры́ць *або́* пакрыва́ць і́ншым мэта́лам. 2. ако́ўваць, пакрыва́ць бро́няю

**plateau** [plætˈoʊ] n. пласкаго́р'е *n.*, плято́ *n., indecl.*

**platform** [ˈplætfɔ:rm] n. плятфо́рма *f.*

**platform car** ваго́н-плятфо́рма

**platform shoes** чаравікі́ на таўсто́й падэ́шве

**platinum** [ˈplætənəm] n. 1. пля́тына *f.* (*высакаро́дны мэта́л*). 2. сьве́тлашэ́ры ко́лер

**platitude** [ˈplætətu:d] n. 1. бана́льнасьць *f.* 2. зьбі́ты вы́раз, штамп -у *m.*, агу́льнавядо́мая ду́мка

**platitudinous** [ˌplætəˈtu:dənəs] adj. бана́льны; зьбі́ты, нецікáвы, ну́дны.

**platoon** [pləˈtu:n] n., Milit. узво́д -у *m.*

**platter** [ˈplætər] n. блю́да *n.*, паўмі́с|ак -ка *m.*

**plausible** [ˈplɔ:zəbəl] adj. 1. праўдападо́бны. 2. які́ выкліка́е даве́р: ***a plausible liar*** маню́ка, яко́му лёгка ве́раць

**play** [pleɪ] – n. 1. гульня́ *f.* 2. ход -у *m.* (*у гульні́ ў ша́шкі*). 3. п'е́са *f.*

– v. 1. гуля́ць: ***to play with children*** гуля́ць зь дзе́цьмі; ***to play tennis (football)*** гуля́ць у тэ́ніс (футбо́л); ***to play cards*** гуля́ць у ка́рты. 2. граць, а) на музы́чным інструмэ́нце. б) ро́лю на сцэ́не. 3. разы́грываць : ***to play a mean trick*** ашука́ць *каго́*; ***to play a trick*** адпалі́ць шту́ку. 4. прыкі́двацца: ***to play sick*** прыкі́двацца хво́рым

• ***fair play*** сумле́нная гульня́

• ***in play*** жа́ртам

• ***play back*** прайгра́ць яшчэ́ раз (*касэ́ту*)

• ***play down*** абніжа́ць (*значэ́ньне, небясьпе́ку*)

• ***play off*** гуля́ць дадатко́вую гульню́ для выяўле́ньня перамо́жцы

• ***play up to*** Sl. падлі́звацца, падлабу́ньвацца

**playbill** [ˈpleɪbɪl] n. 1. рэкля́мны лісто́к *або́* афі́ша. 2. прагра́ма п'е́сы

**player** [ˈpleɪər] n. 1. гуле́ц гульца́ *m.* (*у спо́рце*). 2. акто́р, акцёр -а *m.* (*у тэа́тры*). 3. музы́к|а -і *m. & f.*, музыка́нт -а *m.* 4. прайграва́льнік а *m.*

**player piano** піяні́на з мэхані́змам для аўтаматы́чнай ігры́

**playful** [ˈpleɪfəl] adj. 1. гульлі́вы, дура́сьлівы, сваво́льны. 2. жартаўлі́вы, гарэ́зьлівы

**playground** [ˈpleɪgraʊnd] n. пляцо́ўка для гу́льняў; дзіця́чая пляцо́ўка; спарто́вая пляцо́ўка

**playhouse** [ˈpleɪhaʊs] n. 1. ца́цачны дамо́к, дамо́к для ля́лек. 2. драматы́чны тэа́тар
**playing card** ігра́льная ка́рта
**playmate** [ˈpleɪmeɪt] n. ся́бра ў гу́льнях
**play-off** [ˈpleɪɔ:f] n. ро́зыгрыш -у *m.*, вырашá льная гульня́ пасля́ нічые́й
**plaything** [ˈpleɪθɪŋ] n. забáўка *f.*
**playtime** [ˈpleɪtaɪm] n. час для гульні́ *або́* забáваў
**playwright** [ˈpleɪraɪt] n. драматýрг -а *m.*
**plaza** [ˈplɑ:zə] n. пляц -у *m.*, плóшча *f.*; ры́н|ак -ку *m.*; ры́нкавая плóшча; Am. цэ́нтар з крáмамі
**plea** [pli:] n. 1. малéньне *n.*, прóсьба, мальбá *f.*: ***a plea for pity*** мальбá аб лі́тасьці. 2. апраўдáньне, тлумачэ́ньне *n.* 3. Law а) слóва падсýднага. б) слóва абарóны
**plead** [pli:d] v. 1. малі́ць, упрóшваць. 2. тлумáчыцца, апрáўдвацца, спасылáцца на *што.* 3. Law а) вéсьці спрáву ў судзé. б) адкáзваць на абвінавáчаньне ў судзé: ***to plead (not) guilty*** (не) прызнавáць сябé вінавáтым
**pleader** [ˈpli:dər] n. 1. абарóнца (*асаблі́ва судóвы*). 2. застýпнік -а *m.*, застýпніца *f.*
**pleadings** [ˈpli:dɪŋz] n., pl., Law судóвая працэдýра (*падáча скáргі ў суд прóсьбітам і абарóна абвінавáчанага*)
**pleasant** [ˈplezənt] adj. 1. прыéмны, мі́лы. 2. тавары́скі. 3. пагóдлівы
**pleasantly** [ˈplezəntli] adv. прыéмна, мі́ла
**pleasantry** [ˈplezəntri] n, pl. **-ries** 1. прыéмная *або́* дасьці́пная заўвáга. 2. прыéмныя жáрты *pl.*, паджартóўваньне адзі́н з аднагó
**please** [pli:z] v. 1. падабáцца. 2. дагаджáць. 3. хацéць: ***Do what you please*** Рабéце, што хóчаце. 4. калі́ лáска: ***Come here, please*** Хадзі́ сюды́, калі́ лáска; ***to be pleased*** быць задавóленым
• ***if you please*** калі́ хóчаш, як твая́ лáска
**pleasing** [ˈpli:zɪŋ] adj. прыéмны, даспадóбы
**pleasure** [ˈpleʒər] n. 1. прыéмнасьць *f.* 2. уцéха *f.*; рáдасьць *f.*
• ***at one's pleasure*** як хто жадáе, як камý падабáецца
• ***take pleasure*** знахóдзіць у чым-н. прыéмнасьць; мець прыéмнасьць
**pleat** [pli:t] – n. склáдка *f.*
– v. рабі́ць склáдкі: ***pleated skirt*** спадні́ца ў склáдкі
**plebeian** [pləˈbi:ən] – n. 1. плебэ́|й -я *m.*, плебэ́йка *f.* (*у старажы́тным Ры́ме*). 2. прóсты *або́* вульгáрны чалавéк
– adj. прóстага пахóджаньня, плебэ́йскі
**plebiscite** [ˈpləbɪsaɪt] n. плебісцы́т -у *m.*
**pledge** [pledʒ] – n. 1. абяцáньне, забавязáньне *n.* 2. заклáд -у *m.*: ***to leave something as a pledge*** пакі́нуць што-н. у заклáд
– v. 1. забавя́звацца. 2. забавя́зваць *кагó* да *чагó.* 3. закладáць, давáць у заклáд
• ***take the pledge,*** Informal даць зарóк, зарачы́ся
**plenary** [ˈpli:nəri] adj. 1. пóўны, увéсь. 2. пленáрны (*напр. пасéджаньне*)
**plenipotentiary** [ˌplenɪpəˈtenʃəri] – n., pl. **-aries** паўнамóцны прадстаўні́к, пас|óл -лá *m.*
– adj. паўнамóцны
**plenitude** [ˈplənətu:d] n. паўнатá *f.*, камплéктнасьць *f.*; мнóства *n.*; дастáт|ак -ку *m.*
**plentiful** [ˈplentɪfəl] adj. дастаткóвы, больш як дóсыць, багáты, урадлі́вы
**plenty** [ˈplenti] – n., pl. **-ties** 1. мнóства *n.*; дастаткóвая кóлькасьць: ***There is plenty of time*** Ёсьць кýча чáсу. 2. багáцьце *n.*, дастáт|ак -ку *m.*: ***in plenty*** удóсыць; ***years of peace and plenty*** гады́ мíру й дастáтку
– adj. дастаткóвы; багáты, шчóдры
– adv., Informal цáлкам, зусíм; дастаткóва, шмат
**pleurisy** [ˈplʊrəsi] n. плеўры́т -у *m.*
**pliability** [ˌplaɪəˈbɪləti] n. 1. гнýткасьць *f.* 2. падáтлівасьць, згавóрлівасьць *f.*
**pliable** [ˈplaɪəbəl] adj. 1. гнýткі; падáтлівы, падаўкí (*пры апрацóўцы*). 2. па-

**prescribe** [prɪˈskraɪb] v. 1. загáдваць. 2. прыпíсваць, прапíсваць (*лек*): ***The doctor prescribed penicillin*** Лéкар прапісáў пэніцылíн. 3. Law а) трáціць моц за дáўнасьцю гадóў. б) дамагáцца прáва ўладáньня на падстáве дáўнасьці

**prescript** [ˈpri:skrɪpt] – n. прáвіла *n.*; загáд -у *m.*, дырэктыва *f.*

– adj. [prɪˈskrɪpt] прыпісáны; загадáны

**prescription** [prɪˈskrɪpʃən] n. 1. загáд -у *m.*, дырэктыва *f.* 2. рэцэ́пт -у *m.* (*лéкарскі*). 3. прапісáны лек. 4. прáва дáўнасьці

**presence** [ˈprezəns] n. 1. прысýтнасьць *f.* 2. мéсца прысýтнасьці: ***I was admitted to his presence*** Я быў дапýшчаны да ягó. 3. вы́гляд -у *m.*; пастáва, пóстаць *f.*

• ***in the presence of*** у прысýтнасьці *кагó*, у тавáрыстве *кагó*

• ***presence of mind*** прысýтнасьць дýху

**present I** [ˈprezənt] – adj. 1. прысýтны: ***to be present at*** прысýтнічаць дзе-н. 2. цяпéрашні: ***present prices*** цяпéрашнія цэ́ны. 3. Gram. ***present tense*** цяпéрашні час

– n. Gram. цяпéрашні час: ***at present*** цяпéрашнім часáм

• ***by these presents*** гэ́тымі слóвамі, гэ́тым дакумэ́нтам

• ***for the present*** на гэ́ты раз, пакýль што

**present II** [prɪˈzent] – v.1. даравáць; давáць падарýнак. 2. давáць, падавáць: ***to present reasons*** падавáць прычы́ны. 3. прадстаўля́ць, стáвіць: ***to present a play*** стáвіць п'éсу. 4. уручáць: ***to present a bill*** паслáць рахýнак. 5. прадстаўля́ць, рэкамэндавáць, знаёміць.

– n. [ˈprezənt] падарýн|ак -ка *m.*

• ***Present arms!*** На каравýл!

**presentable** [prɪˈzentəbəl] adj. 1. вíдны, павáжны, прэзэнтáбельны. 2. адпавéдны, прыдáтны для падарýнка

**presentation** [ˌprezənˈteɪʃən] n. 1. уручэ́ньне, даравáньне падарýнка; даравáньне *n.* 2. падарýн|ак -ка *m.* 3. пастанóўка: ***the presentation of a play*** прадстаўлéньне *n.* 4. прадстаўлéньне (*асабл. высокапастáўленай асóбе*). 5. прэзэнтáцыя *f.* (*кнíгі, дакумэ́нту*)

**presently** [ˈprezəntli] adv. 1. хýтка, зáраз. 2. зáраз жа. 3. цяпéр. 4. якрáз цяпéр

**present participle** дзеепрымéтнік цяпéрашняга чáсу

**preservation** [ˌprezərˈveɪʃən] n. 1. захавáньне ад псавáньня, зьнішчэ́ньня, кансэрвáцыя *f.* 2. захавáнасьць, цэ́ласьць, непашкóджанасьць *f.*

**preservative** [prɪˈzɜ:rvətɪv] n. засьцерагáльны срóдак: ***Salt is a preservative for meat*** Соль – засьцерагáльны срóдак ад псавáньня мя́са; ***Paint is a preservative for wood surfaces*** Фáрба — засьцерагáльны срóдак для дрэ́ва

**preserve** [prɪˈzɜ:rv] – v. 1. захóўваць ад пашкóджаньня, нішчэ́ньня; ахóўваць. 2. даглядáць. 3. захóўваць ад псавáньня: ***Ice helps to preserve food*** Лёд дапамагáе захóўваць прадýкты ад псавáньня. 4. кансэрвавáць éжу (*салéньнем, вэ́нджаньнем*)

– n. запавéднік -у *m.*

• ***preserves,*** pl. фруктóвыя сóчывы, канфітýры

**preserver** [prɪˈzɜ:rvər] n. 1. ахóўнік -а *m.*, ахóўніца *f.* 2. выратавáльны круг

**preside** [prɪˈzaɪd] v. быць старшынём, вéсьці сход ці пасéджаньне

**presidency** [ˈprezɪdənsi] n., pl. **-cies** старшынёўства *m.* (*пасáда і тэ́рмін*)

**Presidency** [ˈprezɪdənsi] n., pl. **-cies** прэзыдэ́нцтва *n.* (*пасáда і тэ́рмін*)

**president** [ˈprezɪdənt] n. 1. старшын|я́ -і *m. & f.* (*арганізáцыі*). 2. рэ́ктар -а *m.* (*унівэрсытэ́ту, кóледжу*)

**President**, or **president** прэзыдэ́нт -а *m.*

**president-elect** [ˌprezɪdəntɪˈlekt] n. абрáны прэзыдэ́нт (*які́ яшчэ́ не пераня́ў улáды*)

**presidential** [ˌprezɪˈdenʃəl] adj. прэзыдэ́нцкі

**presidium** [prɪˈsɪdiəm] n. прэзы́дыюм -у *m.*

**press I** [pres] – v. 1. ці́снуць, націска́ць, прыціска́ць. 2. выціска́ць (*сок*); сьціска́ць. 3. абдыма́ць, прыціска́ць да сябе́, прытуля́ць: ***to press oneself to*** прыпада́ць, прытуля́цца да *кагó-чагó.* 4. прасава́ць (*адзе́ньне*). 5. націска́ць, напіра́ць, падганя́ць. 6. насто́йваць, прымуша́ць
– n. 1. на́ціск, ціск -у *m.*: ***press of duties*** цяжа́р абавя́зкаў. 2. прэс -а *m.* (*прыла́да*). 3. друка́рскі варшта́т. 4. друка́рня *f.* 5. друка́рства *n.*, друк -у *m.*: ***to go to press*** быць зда́дзеным у друк. 6. прэ́са *f.* 7. сьціск нато́ўпу

**press II** [pres] – v. сі́лай вэрбава́ць (*у во́йска*)
– n. вэрбава́ньне сі́лай

**pressing** [ˈpresɪŋ] – adj. неадкла́дны, сьпе́шны
– n. прасава́ньне *n.*

**pressure** [ˈpreʃər] – n. 1. ціск -у *m.* 2. ця́жкасьць *f.*, цяжкóе стано́вішча: ***financial pressure*** фіна́нсавыя ця́жкасьці. 3. на́ціск -у, прыму́с -у *m.* 4. патрэ́ба сьпе́шных *або́* рашу́чых дзе́яньняў
– v. прымуша́ць

**prestige** [presˈtiːʒ] n. аўтарытэ́т, прэсты́ж -у *m.*

**presumable** [prɪˈzuːməbəl] adj. магчы́мы; які́ мярку́ецца; праўдападо́бны

**presumably** [prɪˈzuːməbli] adv. праўдападо́бна; мабы́ць, му́сіць, магчы́ма

**presume** [prɪˈzuːm] v. 1. прыма́ць за пэ́ўнае; дапушча́ць, ду́маць, меркава́ць. 2. дазваля́ць сабе́, насьме́львацца, адва́жвацца. 3. злоўжыва́ць: ***Don't presume on a person's good nature by borrowing (from him) every week*** Не злоўжыва́й не́чыяй дабрынёю, пазыча́ючы ў яго́ штоты́дня

**presumedly** [prɪˈzumədli] adv. ма́быць, му́сіць; віда́ць, як віда́ць, прыпушча́льна

**presumption** [prɪˈzʌmpʃən] n. 1. дапушчэ́ньне, меркава́ньне *n.*, здага́дка *f.* 2. падста́ва для меркава́ньня (*дапушчэ́ньня, здага́дкі*); праўдападо́бнасьць *f.* 3. наха́бства *n.*

**presumptive** [prɪˈzʌmptɪv] adj. прыпушча́льны, меркава́ны, магчы́мы: ***heir presumptive*** магчы́мы спадкае́мца

**presumptuous** [prɪˈzʌmptʃuəs] adj. бесцырымо́нны; зана́дта самаўпэ́ўнены

**presuppose** [ˌpriːsəˈpoʊz] v.t. 1. напе́рад дапушча́ць, ду́маць напе́рад. 2. вымага́ць, патрабава́ць (*як неабхо́дную ўмо́ву*): ***A fight presupposes fighters*** Змага́ньне патрабу́е змагаро́ў

**presupposition** [ˌpriːˌsʌpəˈzɪʃən] n. 1. дапушчэ́ньне *n.* 2. перадумо́ва *f.*

**pretence**, esp. Brit. or **pretense** [ˈpriːtens] n. 1. вы́думаная прычы́на, вы́гляд -у *m.*; зачэ́пка *f.*: ***under pretence of*** пад вы́глядам *чаго́.* 2. удава́ньне, прыкі́дваньне *n.*: ***His anger was all pretence*** Ён то́лькі прыкі́нуўся зло́сным. 3. прэтэ́нзія *f.*; прэтэнзі́йнасьць *f.* 4. прэтэнцыёзнасьць *f.* (*на́звы, во́праткі*)

**pretend** [prɪˈtend] v. 1. удава́ць; прыкі́двацца; рабі́ць вы́гляд: ***She pretends to like you*** Яна́ ро́біць вы́гляд, што ты ёй падаба́есься; ***He pretended illness*** Ён прыкі́нуўся хво́рым. 2. мець прэтэ́нзію на *што.* 3. (to) прэтэндава́ць (*на паса́д, ула́ду, та́лент*)

**pretender** [prɪˈtendər] n. 1. сымуля́нт -а *m.*, сымуля́нтка *f.*; той, хто прыкі́дваецца. 2. прэтэндэ́нт -а *m.*, прэтэндэ́нтка *f.*

**pretension** [prɪˈtenʃən] n. 1. прэтэ́нзія *f.* 2. прэтэндава́ньне *n.* (*на ўла́ду, узнагаро́ду*). 3. прэтэнцыёзнасьць *f.*

**pretentious** [prɪˈtenʃəs] adj. прэтэнзі́йны (*назо́ў*), прэтэнцыёзны

**preternatural** [ˌpriːtərˈnætʃərəl] adj. 1. незвыча́йны, вы́няткавы. 2. звышнатура́льны

**pretext** [ˈpriːtekst] n. вы́думаная прычы́на, адгаво́рка *f.*

**prettify** [ˈprɪtɪfaɪ] v., **-fied, -fying** упрыгóжваць

**pretty** [ˈprɪti] – adj. 1. харóшы, прыгóжы, прыгóжанькі. 2. дóбры, лáдны (*іранíчна*): ***a pretty mess*** лáдны непарáдак. 3. Informal лáдны, давóлі вялíкі, немалы́, знáчны: ***pretty penny*** вялíкая сýма грóшай
– adv. дóсыць, давóлі: ***It is pretty late*** Дóсыць пóзна
• ***sitting pretty,*** Sl. замóжны, багáты

**prevail** [prɪˈveɪl] v.i. 1. існавáць, быць распаўсю́джаным *абó* агýльна ўжывáным: ***That custom still prevails*** Гэ́ны звы́чай яшчэ́ існýе. 2. пераважáць, мець перавáгу. 3. перамагáць; асíльваць; дасягáць мэ́ты: ***to prevail against one's foe*** перамагчы́ свайгó вóрага
• ***prevail on, upon*** or ***with*** пераканáць *кагó*

**prevailing** [prɪˈveɪlɪŋ] adj. 1. які́ існýе; перамóжны, мацнéйшы (*сíлай абó ўплы́вамі*). 2. агýльна ўжывáны, найбóльш пашы́раны

**prevalence** [ˈprevələns] n. шырóкая распаўсю́джанасьць, пашы́ранасьць *f.*: ***the prevalence of complaints about the weather*** агýльна пашы́ранае наракáньне на надвóр'е

**prevalent** [ˈprevələnt] adj. 1. шмат распаўсю́джаны, пашы́раны; агýльны, звычáйны: ***Colds are prevalent in winter*** Прастýды звычáйныя ўзíмку. 2. перавáжны; перамóжны

**prevaricate** [prɪˈværɪkeɪt] v.i. 1. хітравáць, круцíць, махлявáць; ілгáць; манíць. 2. гавары́ць ухíльна

**prevarication** [prɪˌværɪˈkeɪʃən] n. кругéльства, махлявáньне *n.*; манá *f.*

**prevent** [prɪˈvent] – v.t. 1. прадухіля́ць; засьцерагáць (*захвóрваньне, эпідэ́мію*). 2. не дазваля́ць, прымушáць спынíць: ***Illness prevented him from doing his work*** Хварóба прымýсіла ягó спынíць прáцу; ***Rain prevented the game*** Дзéля дажджý гульня́ не адбылáся, была́ спы́неная
– v.i. перашкаджáць; не дапускáць да *чагó*: ***I will come if nothing prevents*** Прыдý, калí нíштó не перашкóдзіць

**preventable** [prɪˈventəbəl] adj. які́ мóжна прадухілíць, ад якóга мóжна засьцерагчы́ся

**preventative** [prɪˈventətɪv] adj. *гл.* **preventive**

**prevention** [prɪˈvenʃən] n. засьцярóга *f.*, прадухілéньне *n.*: ***prevention of fire*** засьцярóга ад пажáру

**preventive** [prɪˈventɪv] – adj. засьцерагáльны: ***preventive measures against disease*** засьцерагáльныя зáхады супрóць хварóбы
– n. засьцярóга *f.*

**preview** [ˈpri:vju:] – n. агля́д, прагля́д -у *m.* 2. рэкля́мны пакáз уры́ўкаў з фíльму
– v. загадзя́ праглядáць (*фíльм, мóды*).

**previous** [ˈpri:viəs] adj. 1. папярэ́дні, ранéйшы. 2. Informal пасьпéшны, перадчáсны: ***Don't be too previous about refusing*** Не сьпяшáйся з адмóвай
• ***previous to*** пéрад *чым*

**previously** [ˈpri:viəsli] adv. ранéй, папярэ́дне, пéрад чым-нéбудзь

**prewar** [ˌpri:ˈwɔ:r] adj. перадваéнны

**prey** [preɪ] n. 1. здабы́ча *f.* (*звычáйна пра зьвяра́*): ***birds of prey and beasts of prey*** драпéжныя птýшкі й драпéжныя зьвяры́, драпéжнікі. 2. ахвя́ра *f.* (*пра чалавéка*): ***to be a prey of fear*** быць ахвя́рай стрáху

**price** [praɪs] – n. 1. цанá *f.*: ***at a low price*** па нíзкай цанé, тáнна; ***high prices*** дарагóўля, дарагавíзна *f.* 2. грашóвая ўзнагарóда (*за затрымáньне злачы́нца*). 3. ***at any price*** за ўся́кую цанý
– v.t. 1. цанíць; ацэ́ньваць. 2. прыцэ́ньвацца
• ***beyond*** or ***without price*** цаны́ ня мá, вéльмі дарагí, неацэ́нны

**priceless** [ˈpraɪsləs] adj. 1. вéльмі каштóўны; бясцэ́нны, неацэ́нны. 2. Informal вéльмі сьмéшны, вéльмі прыéмны, цудóўны

**price tag** налéпка з цанóю (*на тавáры*)

**prick** [prɪk] – n. 1. укóл -у *m.*, а) дзéяньне. б) укóлатае мéсца. 2. вастрыё *n.* 3. вóстры боль
– v.t. 1. укóлваць, калóць. 2. настаўля́ць: ***the dog pricked his ears*** сабáка настáвіў вýшы
– v.i. спрычыня́ць *абó* адчувáць вóстры боль
• ***kick against the pricks*** лéзьці на ражóн (*калí няшмáт надзéі на перамóгу*)
• ***prick up the ears*** а) настáвіць вýшы, б) насьцярóжыцца, в) увáжліва слýхаць

**prickle** [ˈprɪkəl] – n. 1. шып -а *m.*, калю́чка *f.* 2. пакóлваньне, калацьцё *n.*, сьверб -у *m.*
– v.i. адчувáць пакóлваньне
– v.t. спрычыня́ць вóстры калю́чы боль

**prickly** [ˈprɪkli] adj. 1. калю́чы, кóлкі: ***a prickly rosebush*** калю́чы куст рýжы. 2. вóстры й калю́чы; сьвярблíвы. 3. гняўлíвы; які́ лёгка абражáецца

**pride** [praɪd] – n. 1. гóнар -у *m.*, самазадавóленасьць *f.*: ***to take pride in*** а) ганары́цца *кім-чым.* б) знахóдзіць прыéмнасьць у *чым.* 2. фанабэ́рыстасьць, пы́ха *f.* 3. ганары́стасьць *f.*; пагáрда *f.* (*да íншых*) 4. найлéпшая чáстка *абó* парá, рóсквіт -у *m.*: ***in the pride of manhood*** у рóсквіце сíлаў
– v.i. ганары́цца: ***to pride oneself on*** ганары́цца нéчым

**priest** [pri:st] n. 1. сьвятáр -á, сьвяшчэ́ньнік -а *m.* 2. жрlэц -ацá *m.* (*пагáнскі*)

**priesthood** [ˈpri:sthʊd] n. 1. сьвятáрства *n.* 2. сьвятары́ *pl.*, духавéнства *n.*

**priestly** [ˈpri:stli] adj. 1. сьвятáрскі, жрэ́цкі (*абавя́зкі*). 2. як сьвятáр

**prig** [prɪg] n. пэдáнт, фармалíст -а *m.*

**priggish** [ˈprɪgɪʃ] adj. 1. пэдáнцкі, пэданты́чны. 2. самазадавóлены

**primacy** [ˈpraɪməsi] n., pl. **-cies** 1. пяршы́нства *n.* 2. сан пры́маса. 3. (*у каталікóў*) прымáт пáпы ры́мскага

**primal** [ˈpraɪməl] adj. 1. пéршабы́тны. 2. першапачаткóвы, ад якóга пахóдзяць íншыя. 3. галóўны, аснóўны

**primary** [ˈpraɪməri] – adj. 1. пéршы (*па чарзé*). 2. пéршы (*па вáжнасьці*). 3. першапачаткóвы. 4. пачаткóвы: ***primary school*** пачаткóвая шкóла
– n. **-ries** 1. нéшта пéршае з парáдку абó павóдле вáжнасьці. 2. аснóўныя кóлеры (*чырвóны, жóўты і сíні*). 3. пéршая абмóтка трансфармáтара. 4. перадвы́барны сход вы́баршчыкаў, перадвы́бары *pl.*

**prime I** [praɪm] – adj. 1. галóўны, найважнéйшы. 2. пéршы, пачаткóвы. 3. дасканáлы, першарáдны. 4. Math. ***prime number*** прóсты лік
– n. 1. цьвет, рóсквіт -у *m.*: ***in the prime of life*** у цьвéце жыцьця́. 2. прóсты лік

**prime II** [praɪm] v.t. 1. грунтавáць (*пакрывáць павéрхню пéршым пластóм фáрбы*). 2. забясьпéчваць інфармáцыяй. 3. улівáць вадý ў пóмпу (*каб пачалá працавáць*)

**prime minister** прэм'éр-мініст|ар -а *m.*

**primer I** [ˈprɪmər] n. 1. лемантáр -á *m.* 2. кнíга для пачаткóўцаў: ***a primer of statistics*** кнíга для пачаткóўцаў у статы́стыцы

**primer II** [ˈpraɪmər] n. пéршы пласт (*пры фарбавáньні*)

**primeval** [praɪˈmi:vəl] adj. 1. першабы́тны. 2. некрáнуты, у натурáльным стáне: ***primeval forests*** першабы́тныя лясы́ (пýшчы)

**primitive** [ˈprɪmətɪv] adj. 1. першабы́тны: ***Primitive people often lived in caves*** Першабы́тныя лю́дзі чáста жылí ў пячóрах. 2. пéршы: ***primitive Christians*** пéршыя хрысьція́не. 3. вéльмі прóсты, нескладáны, як у першабы́тных людзéй; прымíтыўны: ***a primitive way of making fire*** прымíты́ўны спóсаб выкрасáньня агню́. 4. старамóдны: ***a primitive buggy*** старамóдны вазóк

**primordial** [praɪˈmɔ:rdiəl] adj.1. першапачаткóвы, спрадвéчны. 2. элемэн-

та́рны, пачатко́вы: ***primordial laws*** элемэнта́рныя зако́ны

**primordially** [praɪˈmɔːrdiəli] adv. спрадве́ку, спрадве́чна

**primrose** [ˈprɪmroʊz] n., Bot.1. першацьве́т -у *m.* 2. сьветла-жо́ўты ко́лер

**prince** [prɪns] n. прынц -а, княз|ь -я *m.*

**princedom** [ˈprɪnsdəm] n. кня́ства *n.* (*тэрыто́рыя*); князё́ўства -а *n.* (*стано́вішча, ранг або́ ты́тул*)

**princeling** [ˈprɪnslɪŋ] n. 1. кня́жыч -а *m.*; княжа́тка *n.*; княз|ёк -зька́ *m.*

**princely** [ˈprɪnsli] adj. 1. кня́жацкі, кня́жы. 2. як у кня́зя, бага́ты, раско́шны

**princess** [ˈprɪnses] n.1. князё́ўна *f.* 2. княгі́ня *f.* 3. прынцэ́са *f.*

**principal** [ˈprɪnsəpəl] – adj. найважне́йшы, гало́ўны

– n. 1. нача́льнік -а *m.* 2. зага́дчык -а *m.* (*пачатко́вае шко́лы*), дырэ́ктар -а *m.* (*сярэ́дняе шко́лы*). 3. укла́дзеная су́ма, на яку́ю налі́чваюцца працэ́нты

**principality** [ˌprɪnsəˈpæləti] n. кня́ства *n.*

**principally** [ˈprɪnsəpəli] adv. гало́ўным пара́дкам; перш за ўсё

**principle** [ˈprɪnsəpəl] n. 1. пры́нцып -у *m.*; асно́ва *f.*: ***religious principles*** рэлігі́йныя кано́ны. 2. пра́віла *n.*, зако́н -у *m.*: ***to make it a principle*** зрабі́ць пра́вілам

• ***in principle*** у пры́нцыпе, у асно́ўным, у агу́льных ры́сах

• ***on principle*** з пры́нцыпу, прынцыпо́ва

• ***unanimity principle*** пры́нцып аднагало́снасьці

**print** [prɪnt] – v.t. 1. рабі́ць адбі́ткі, адбіва́ць на папе́ры (*узо́ры, сло́вы*). 2. друкава́ць; выдава́ць дру́кам кні́гі, газэ́ты. 3. набіва́ць (*матэ́рыю, шпале́ры*). 4. пі́саць друкава́нымі лі́тарамі. 5. захо́ўвац|ь (-ца) (*у па́мяці*). 6. Phot. адбіва́ць (*зды́мкі*)

– n. 1.шрыфт -у *m.*: ***clear print*** выра́зны друк (*шрыфт*). 2. друкава́ныя выда́ньні, друк -у *m.* 3. адбі́т|ак -ку, сьлед -у *m.* 4. зды́мак, зро́блены з нэгаты́ву. 5. узо́рыстая ткані́на: ***summer prints*** ле́тнія ўзо́рыстыя матар'я́лы

• ***in print*** а) дру́кам. б) яшчэ́ ў про́дажы (*пра кні́гу*)

• ***out of print*** распрада́дзены

**printer** [ˈprɪntər] n. 1. друка́р -а́ *m.* 2. друка́рка *f.* (*прыла́да*)

**printing** [ˈprɪntɪŋ] n. 1. друкава́ньне *n.*, друк -у *m.* 2. накла́д -у, тыра́ж -у́ *m.*

**printing press** друка́рскі варшта́т

**printing type** шрыфт -у *m.*

**prior I** [praɪr] – adj. ране́йшы; папярэ́дні – adv. (to) ране́й за; пе́рад: ***to be prior to*** папярэ́днічаць *чаму́*

**prior II** [praɪr] n. настая́цель мужчы́нскага манастыра́, ігу́мен -а *m.*

**prioress** [ˈpraɪərəs] n. ігуме́ньня *f.*

**priority** [praɪˈɔːrəti] n., pl.**-ties** 1. пяршы́нства, старшы́нства *n.*, прыярытэ́т -у *m.* 2. пара́дак тэрміно́васьці, чарго́васьці

**priory** [ˈpraɪəri] n., pl. **-ries** кля́штар -а, манасты́р -а́ *m.*

**prism** [ˈprɪzəm] n. пры́зма *f.*

**prismatic colors** ко́леры вясёлкі

**prison** [ˈprɪzən] – n. 1. астро́г -у *m.*, турма́, вязьні́ца *f.* 2. пало́н -у *m.*: ***prison camp*** ля́гер для ваённапало́нных *або́* палітыч́ных вя́зьняў

– v.t. пасадзі́ць у вастро́г

**prisoner** [ˈprɪzənər] n. 1. зьняво́лен|ы -ага *m.*, зьняво́леная *f.*, вя́з|ень -ьня *m.* 2. пало́нн|ы -ага *m.*: ***prisoner of war*** ваённапало́нны

**privacy** [ˈpraɪvəsi] n., pl. **-cies** 1. адасо́бленасьць *f.*; само́та, адзіно́та *f.* 2. таямні́ца *f.*, сакрэ́т -у *m.*: ***in strict privacy*** пад стро́гім сакрэ́там

**private** [ˈpraɪvət] – adj. 1. прыва́тны: ***a private house*** прыва́тны дом; ***a private property*** прыва́тная ўла́снасьць. 2. асабі́сты (*пра жыцьцё, ду́мку*). 3. та́йны, сакрэ́тны, даве́рны, канфідэнцы́йны.

– n. радав|ы́ -о́га *m.* (*жаўне́р*)

• ***in private*** а) прыва́тна. б) пад сакрэ́там

**privateer** [ˌpraɪvəˈtɪr] n. 1. узбро́ены прыва́тны вадаплаў, ка́пэр -а *m.* 2. капіта́н *або́* ся́бра экіпа́жу ка́пэра

**private school** прыва́тная шко́ла

**privately** [ˈpraɪvətli] adv. прыва́тна; асабі́ста; пад сакрэ́там

**privation** [praɪˈveɪʃən] n. 1. няго́ды *pl.* 2. матэрыя́льная нястача, гале́ча, бе́днасьць *f.*

**privative** [ˈprɪvətɪv] – adj., Gram. адмо́ўны (*пра прыста́ўку або́ су́фікс*)
– n. адмо́ўная прыста́ўка або́ су́фікс: ***UN- is a privative prefix*** НЕ — адмо́ўная прыста́ўка

**privilege** [ˈprɪvəlɪdʒ] n. прывіле́й -ю *m.*

**privy** [ˈprɪvi] – adj. прыва́тны; асабі́сты
– n., pl. **-vies** мала́я знадво́рная прыбіра́льня

**privy council** гру́па дара́днікаў у кіраўніка́

**prize I** [praɪz] – n. узнагаро́да *f.*; прэ́мія *f.* 2. вы́йгрыш -у *m.*
– adj. 1. узнагаро́дны. 2. узнагаро́джаны. 3. ва́рты ўзнагаро́ды

**prize II** [praɪz] v.t. 1. высо́ка цані́ць. 2. ацэ́ньваць

**prize fight** баксёрскае спабо́рніцтва за ўзнагаро́ду

**prize fighter** прафэсі́йны баксёр

**pro** [proʊ] – adv. за; на чыю́-н. кары́сьць
– n., pl. **pros** 1. выка́званьні за што-н. 2. асо́ба, яка́я галасу́е за. 3. го́лас за што-н.
• ***pros and cons*** до́вады, аргумэ́нты за і су́праць

**probability** [ˌprɑ:bəˈbɪləti] n., pl. **-ties** імаве́рнасьць, праўдападо́бнасьць *f.*, праўдападабе́нства *n.*: ***theory of probability,*** Math. тэо́рыя імаве́рнасьці
• ***in all probability*** праўдападо́бна

**probable** [ˈprɑ:bəbəl] adj. праўдападо́бны, магчы́мы, імаве́рны, верагодны

**probably** [ˈprɑ:bəbli] adv. праўдападо́бна; ма́быць, пэ́ўна, му́сіць

**probably not** наўда́чу; бада́й што не

**probate** [ˈproʊbeɪt] – n. 1. афіцы́йнае зацьве́рджаньне (*сапра́ўднасьці тэстамэ́нту*). 2. зацьве́рджаная сапра́ўдная ко́пія тэстамэ́нту
– v.t.пра́ўна зацьве́рдзіць сапра́ўднасьць (*тэстамэ́нту*)

**probation** [proʊˈbeɪʃən] n. 1. выпрабава́ньне (*кваліфіка́цыі, хара́ктару*). 2. час трыва́ньня выпрабава́ньня. 3. умо́ўнае звальне́ньне на пару́кі

**probationary** [proʊˈbeɪʃəneri] adj.1. выпрабава́льны. 2. на выпрабава́ньні

**probationer** [proʊˈbeɪʃənər] n. асо́ба на выпрабава́ньні

**probe** [proʊb] – v.t. 1. дасьле́даваць, уніка́ць, уду́мвацца. 2. імкну́цца зразуме́ць, шука́ць прычы́ны. 3. дасьле́даваць хірургі́чным зо́ндам
– n. 1. расьсьле́даваньне *n.* 2. зонд -а *m.*

**problem** [ˈprɑ:bləm] n. 1. прабле́ма *f.*, цяжко́е пыта́ньне, склада́ная сыту́ацыя. 2. Math. зада́ча *f.*

**problematic** [ˌprɑ:bləˈmætɪk] adj. няпэ́ўны, праблематы́чны

**procedure** [prəˈsi:dʒər] n. 1. афіцы́йны пара́дак дзе́яньняў, мэ́тад правядзе́ньня чаго́-н., працэду́ра *f.*: ***parliamentary procedure*** парлямэнта́рная працэду́ра

**proceed** [prəˈsi:d] – v.t. 1. працягваць рабі́ць, ісьці́ дале́й. 2. выдзяля́цца, ісьці́ (*ад, з чаго́*): ***Heat proceeds from fire*** Ад агню́ ідзе́ цяпло́. 3. ру́хацца напе́рад, ру́хацца ўгару́ (*у наву́цы, на стано́вішчы*)
– n. *usually* **proceeds** прыбы́т|ак -ку, дахо́д -у *m.*

**process** [ˈprɑ:ses] – n. 1. працэ́с -у *m.*: ***changes are in process*** адбыва́юцца зьме́ны. 2. а) хада́ *f.*: ***in process of time*** зь ця́гам ча́су. б) ***to have something in process*** працава́ць над чым-н. 3. вы́клік у суд. 4. судо́вы працэ́с
– v.t. 1. пачына́ць судзі́цца, падава́ць у суд. 2. апрацо́ўваць, паддава́ць яко́му-н. працэ́су

**procession** [prəˈseʃən] n. 1. шэ́сьце *n.*, працэ́сія *f.*: ***a funeral procession*** пахава́льная працэ́сія. 2. пахо́д -у *m.*

**processional** [prəˈseʃənəl] – adj. працэсі́йны

– n. 1. му́зыка і пе́сьні, сьпява́ныя ў ча́се працэ́сіі. 2. кні́га з гі́мнамі для рэлігі́йных працэ́сіяў

**proclaim** [prəˈkleɪm] v.t. 1. абвяшча́ць. 2. усталёўваць афіцы́йным а́ктам

**proclamation** [ˌprɑ:kləˈmeɪʃən] n. афіцы́йнае абве́шчаньне *n.*; праклямá-цыя *f.*

**proclivity** [proʊˈklɪvəti] n., pl.**-ties** схі́льнасьць *f.*; прадузя́тасьць, неаб'ектыўнасьць, тэндэнцы́йнасьць *f.*

**procrastinate** [prəˈkræstɪneɪt] – v. адця́гваць, адклада́ць на пазьне́й

– v.i. мару́дзіць

**procrastination** [prəˌkræstɪˈneɪʃən] n. адклада́ньне, зацягваньне, замару́джваньне *n.*

**procreate** [ˈproʊkrieɪt] – v.t. 1. аплadня́ць. 2. тварь́іць; прадукава́ць

– v.i. нараджа́ць пато́мства

**procreation** [ˌproʊkriˈeɪʃən] n. 1. апладне́ньне *n.* 2. нараджэ́ньне пато́мства. 3. прадукава́ньне *n.*.

**prod** [prɑ:d] – v.t. **-dd-** 1. паро́ць чым-н. во́стрым, штурха́ць. 2. падганя́ць (*у пра́цы*). 3. падбухто́рваць

– n. 1. уда́р во́стрым кі́ем. 2. во́стры кій. 3. Figur. напамі́н -у, напамі́н|ак -ку *m.*

**prodigal** [ˈprɑ:dɪgəl] – adj. 1. марнатра́ўны, неашча́дны. 2. бага́ты; празьме́рны; шчо́дры: ***prodigal of gifts*** шчо́дры на падару́нкі

– n. марнатра́|вец -ўца *m.*

• ***the prodigal son*** блу́дны сын (*біблейскі*)

**prodigality** [ˌprɑ:dəˈgæləti] n., pl. **-ties** 1. марнатра́ўства *n.* 2. бага́цьце *n.*, шчо́драсьць *f.*

**prodigious** [prəˈdɪdʒəs] adj. 1. велічэ́зны, агро́мністы. 2. цудо́ўны; чаро́ўны, дзіво́сны: ***a prodigious feat*** дзіво́снае дасягне́ньне

**prodigy** [ˈprɑ:dədʒi] n., pl. **-gies** цу́д -у *m.*, дзіва *n.*; чаро́ўнасьць *f.*: ***child prodigy*** вундэркі́нд -а *m.*

**produce** [prəˈdu:s] – v.t. 1. рабі́ць, выраб-ля́ць, выпуска́ць. 2. радзі́ць (*і пра зямлю́*), дава́ць ураджа́й, плён, прыбы́так. 3. быць прычы́най чаго́-н.: ***Hard work produces success*** По́сьпех — вы́нік цяжко́е пра́цы. 4. пака́зваць, прад'яўля́ць (*напр. па́шпарт*), падава́ць: ***Produce your proof*** Пада́йце ва́шыя до́казы. 5. ста́віць п'е́су (*у тэа́тры*)

– n. [ˈproʊdu:s] праду́кт, плён, вы́нік -у *m.*

– adj. прадукто́вы: ***He owns a produce market*** Ён трыма́е прадукто́вую кра́му (*з садаві́но́й і гаро́днінай*)

**producer** [prəˈdu:sər] n. 1. вытво́рц|а -ы *m.* (*збо́жжа, прамысло́вых тава́раў*). 2. тэатра́льны, фільмо́вы, радыё- або́ тэлевізі́йны пастано́ўшчык; прадзю́сэр -а *m.*

**product** [ˈprɑ:dʌkt] n. 1. праду́кт -у *m.*: ***factory products*** фабры́чныя вы́рабы. 2. Math. здабы́т|ак -ку *m.* 3. Chem. праду́кт рэа́кцыі

**production** [prəˈdʌkʃən] n. 1. вы́раб -у *m.*, прадукава́ньне *n.*; вытво́рчасьць, праду́кцыя *f.* 2. праду́кцыя *f.*; пастано́ўка *f.*: ***The school play was a fine production*** Шко́льная п'е́са была́ до́бра паста́ўленая

**productive** [prəˈdʌktɪv] adj.1. здо́льны радзі́ць, дава́ць: ***Fields are now productive only of weeds*** Палі́ цяпе́р здо́льныя радзі́ць то́лькі пустазе́льле. 2. прадукцы́йны: ***Farming is productive labor*** Земляро́бства — прадукцы́йная пра́ца. 3. які́ дае́ до́бры ўраджа́й *або́* вялі́кую праду́кцыю, ураджа́йны. 4. пладаві́ты, плённы: ***a productive writer*** пладаві́ты пісьме́ньнік

**productivity** [ˌproʊdʌkˈtɪvəti] n. прадукцы́йнасьць *f.*

**profanation** [prɑ:fəˈneɪʃən] n. прафана́цыя *f.*, апашле́ньне *n.*

**profane** [prəˈfeɪn] – adj. 1. сьве́цкі, нерэлігі́йны. 2. богазьневажа́льны, блюзьне́рскі: ***profane language*** блюзьне́рскія сло́вы. 3. про́сты, вульга́р-

ны: ***the profane rites of savages*** прóстыя абрáды дзікунóў
– v.t. прафанавáць

**profanity** [prəˈfænəti] n., pl. **-ties** 1. непрыстóйная брыдкáя мóва, лáянка *f.* 2. блюзьнéрства, богазьневажáньне *n.*

**profess** [prəˈfes] v.i. 1. адкрыта прызнавáцца ў *чым*, заяўляць аб *чым*. 2. вызнавáць, вéрыць у *што*: ***Christians profess Christ and the Christian religion*** Хрысьціяне вéраць у Хрыстá і хрысьціянскую рэлігію. 3. прэтэндавáць (*на вучóнасьць*). 4. прымáць у манáскі óрдэн

**profession** [prəˈfeʃən] n.1. прафэ́сія *f.* 2. запэ́ўненьне *n.* (*у прыязьні*). 3. веравызнáньне *n.* 4. абрачэ́ньне ў манáхі *абó* манáшкі.

**professional** [prəˈfeʃənəl] – adj. 1. прафэсíйны. 2. якí мáе прафэ́сію
– n. прафэсіянáл -а *m.*, прафэсіянáлка *f.*

**professor** [prəˈfesər] n. 1. прафэ́сар -а *m.*; выклáдчык -а *m.* 2. вызнáвец -ўца *m.* (*вéры*)

**professorate** [prəˈfesərət] n. 1. прафэ́сарства *n.* 2. прафэсары́ *pl.*

**professorial** [ˌproʊfəˈsɔ:riəl] adj. прафэ́сарскі

**proffer** [ˈprɑ:fər] – v.t. прапанóўваць; вы́казваць: ***We proffered regrets*** Мы вы́казалі шкадавáньне
– n. прапанóва *f.*

**proficiency** [prəˈfɪʃənsi] n., pl. **-cies** шырóкія вéды, умéльства *n.*; дасьвéдчанасьць *f.*

**proficient** [prəˈfɪʃənt] – adj. умéлы, спрáўны
– n. экспэ́рт -а *m.*; знáвец -ўца, знáўца -ы *m.*: ***She was very proficient in music*** Янá былá вялікім знáўцам мýзыкі

**profile** [ˈproʊfaɪl] – n. 1. прóфіль -ю *m.* 2. абры́с -у, кóнтур -у *m.* 3. біяграфíчны нáрыс (*асóбы*).
– v.t. намалявáць прóфіль.

**profit** [ˈprɑ:fət] – n. 1. *often* **profits,** pl. прыбы́ткі *pl.*, зарóбак -ку *m.* 2. кары́сьць, выгóда *f.*: ***What profit is there in worrying?*** Якáя кары́сьць з турбóтаў?
– v. 1. мець дахóд, прыбы́ткі *абó* кары́сьць з *чагó*. 2. карыстáць з *чагó*

**profitable** [ˈprɑ:fətəbəl] adj. 1. прыбыткóвы, дахóдны. 2. кары́сны, выгóдны

**profiteer** [ˌprɑ:fəˈtɪr] – n. спэкулянт -а *m.*, спэкулянтка *f.*
– v. займáцца спэкуляцыяй

**profligacy** [ˈprɑ:flɪgəsi] n. 1. вялíкая распýснасьць, блуд -у *m.* 2. легкадýмнае марнатрáўства

**profligate** [ˈprɑ:flɪgət] – adj. 1. распýсны, бессарóмна ліхí. 2. марнатрáўны, раскíдлівы
– n. распýсьнік -а *m.*, распýсьніца *f.*; марнатрáвец -ўца *m.*

**profound** [prəˈfaʊnd] – adj. глыбóкі: ***a profound sigh (sleep)*** глыбóкі ўзды́х (сон). 2. вéльмі вялíкі: ***profound despair*** вялíкая рóспач; ***profound sympathy*** найглыбéйшыя спачувáньні. 3. глыбóкі, мýдры: ***a profound thinker*** глыбóкі мысьляр. 4. нíзкі: ***a profound bow*** шчы́ры паклóн
– n., Poetic 1. глыб *f.*; мóра *n.*; акіян -у *m.* 2. бязьмéрная бéздань, прадóньне *n.*

**profundity** [prəˈfʌndəti] n., pl. **-ties** 1. вялíкая глыб *f.* 2. бéздань, прóрва, глыбіня́ *f.*

**profuse** [prəˈfju:s] adj. 1. глыбóкі, шчы́ры: ***profuse thanks*** шчы́ры дзя́куй. 2. шчóдры; раскíдлівы, неашчáдны: ***to be profuse in one's promises*** не шкадавáць абяцáньняў; ***He was so profuse with his money that he is now poor*** Ён так кідáўся грашы́ма, што цяпéр зрабíўся бéдным

**profusion** [prəˈfju:ʒən] n. 1. мнóства *n.*, вялíкая кóлькасьць. 2. шчóдрасьць; раскíдлівасьць, неашчáднасьць *f.*

**progenitor** [proʊˈdʒenətər] n. прабáцька -і *m.*

**progeny** [ˈprɑ:dʒəni] n., pl. **-nies** дзéці *pl.*, нашчáдкі *pl.*, патóмства *n.*

**prognosis** [prɑːgˈnousəs] n., pl. **-ses** [-siːz] прадбачаньне, прадказаньне *n.*, прагно́з -у *m.*

**program**, Brit. **programme** [ˈprougræm] – n. 1. праграма *f.* 2. плян -у *m.* (*пра́цы, дзе́яньня*): ***a school program*** шко́льная прагра́ма, плян заня́ткаў. 3. ***computer program*** кампу́тарная прагра́ма
– v.t. 1. улуча́ць у прагра́му. 2. склада́ць прагра́му *або́* плян. 3. Tech. праграмава́ць

**programmer** [ˈprougræmər] n. праграмі́ст -а *m.*

**progress** [ˈprɑːgres] – n. 1. по́ступ -у *m.*, разьвіцьцё *n.*, рост, прагрэ́с -у *m.* 2. рух напе́рад.
– v.i. [prəˈgres] 1. рабі́ць по́ступ. 2. ру́хацца, ісьці́ напе́рад (*пра пра́цу, прае́кт*)

**progression** [prəˈgreʃən] n. 1. рух напе́рад. 2.Math. прагрэ́сія *f.*: ***arithmetical progression*** арытмэты́чная прагрэ́сія; ***geometrical progression*** геамэтры́чная прагрэ́сія

**progressive** [prəˈgresɪv] adj. 1. які́ ро́біць по́ступ, які́ ідзе́ да ле́пшага. 2. прагрэсі́ўны, перадавы́. 3. узраста́ючы (*пра дахо́д*)

**prohibit** [prouˈhɪbət] v. 1. забараня́ць (*зако́нам або́ ўла́дай*). 2. не дава́ць, не дазваля́ць

**prohibited** [prouˈhɪbətəd] adj. забаро́нены

**prohibition** [ˌprouəˈbɪʃən] n. 1. забаро́на *f.* 2. зако́н *або́* зага́д аб забаро́не. 3. забаро́на алькаго́льных напо́яў (*у ЗША*), прагібі́цыя *f.*, сухі́ зако́н

**prohibitive** [prouˈhɪbətɪv] adj. 1. які́ забараня́е, забаро́нны, прагібіцы́йны. 2. які́ не дазваля́е

**project** [ˈprɑːdʒekt] – n. 1. заду́мка *f.*, прае́кт -у *m.*, схэ́ма *f.*; плян -у *m.* 2. прадпрые́мства *n.*; пачына́ньне *n.*
– v.t. [prəˈdʒekt] 1. праектава́ць, плянава́ць. 2. вытырка́цца, выступа́ць. 3. выкіда́ць, выпушча́ць (*снара́д*). 4. кі́даць сьвятло́, цень. 5. дэманстрава́ць кінафі́льм

**projectile** [prəˈdʒektəl] n. снара́д гарма́ты; не́шта кі́нутае ўдалечыню́

**projection** [prəˈdʒekʃən] n. 1. вы́ступ -у *m.*: ***rocky projection*** скалі́сты вы́ступ. 2. вытырка́ньне *n.* 3. выпушча́ньне снара́даў з гарма́ты. 4. Geom. прае́кцыя *f.* 5. праектава́ньне, плянава́ньне *n.*

**projector** [prəˈdʒektər] n. 1. прае́ктар -а *m.* (*апара́т*). 2. праекта́нт -а *m.*

**proletarian** [ˌprouləˈteriən] – adj. пралета́рскі
– n. пралета́р -а *m.*

**proletariat** [ˌprouləˈteriət] n. пралетарыя́т -у *m.*

**proliferate** [prəˈlɪfəreɪt] v.i. 1. размнажа́цца, разраста́цца. 2. пашыра́цца, пабо́льшвацца, распаўсю́джвацца

**proliferation** [prəˌlɪfəˈreɪʃən] n. 1. ху́ткае размнажэ́ньне. 2. пашырэ́ньне, пабо́льшваньне, распаўсю́джваньне *n.*

**prolific** [prəˈlɪfɪk] adj. пладаві́ты (*пісьме́ньнік*), пло́дны (*як трус*); ураджа́йны, урадлі́вы (*пра зямлю́*)

**prologue** or **prolog** [ˈprouləːg] n. 1. пралёг -у *m.* 2. усту́п (*да літарату́рнага тво́ру*). 3. усту́п -у, пача́т|ак -ку *m.*

**prolong** [prəˈlɔːŋ] v.t. 1. працягваць, прадо́ўжваць. 2. адклада́ць, адтэрміно́ўваць. 3. Diplom. пралянгава́ць

**prolongation** [ˌproulɔːŋˈgeɪʃən] n. 1. падо́ўжаньне, падаўжэ́ньне (*дада́дзеная ча́стка*); прадаўжэ́ньне *n.*, працяг -у *m.* 2. Diplom. пралянга́цыя *f.*

**promenade** [ˌprɑːməˈneɪd] – n. 1. прахо́дка *f.*, шпа́цыр -у *m.* 2. ме́сца для прахо́дак. 3. студэ́нцкі баль
– v.i. ісьці́ на прахо́дку; пахаджа́ць, шпацырава́ць

**promenade deck** ве́рхняя па́луба на вадапла́ве

**prominence** [ˈprɑːmɪnəns] n. 1. вялі́кае значэ́ньне; выда́тнасьць *f.* 2. выпу́класьць *f.*; вы́тыркласьць *f.*

**prominent** [ˈprɑːmɪnənt] adj. 1. до́бра вядо́мы, ва́жны, выда́тны, вялі́кі (*пра пісьме́ньніка*). 2. заўва́жны, вы́тыркны, які́ кі́даецца ў во́чы

**promiscuity** [ˌprɑ:məˈskju:əti], n., pl. **-ties** 1. бязла́дная мешані́на; разнаста́йнасьць. 2. неперабо́рлівасьць (*у палавы́х зно́сінах*), праміскуітэ́т -у *m.*

**promiscuous** [prəˈmɪskjuəs] adj. 1. неперабо́рлівы (*асаблі́ва ў палавы́м жыцьці́*). 2. зьме́шаны

**promise** [ˈprɑ:məs] – n. 1. абяца́ньне *n.* 2. прадве́сьце *n.*; надзе́я *f.*: ***a young scholar who shows promise*** малады́ вучо́ны, які́ падае́ надзе́і
– v.t. 1. абяца́ць: ***to promise help to a friend*** абяца́ць ся́бру дапамо́гу. 2. прадвяшча́ць, прадка́зваць: ***dark skies that promise snow*** цёмнае не́ба прадвяшча́е сьнег
– v.i. 1. абяца́цца. 2. дава́ць падста́вы для спадзява́ньня

**Promised Land** запаве́тная зямля́ (*у Бі́бліі*)

**promising** [ˈprɑ:məsɪŋ] adj. шматабяца́льны: ***a promising student*** шматабяца́льны ву́чань

**promissory** [ˈprɑ:məsɔ:ri] adj. які́ абяца́е, абавя́звае: ***promissory note*** пазыко́вае абавяза́ньне

**promontory** [ˈprɑ:məntɔ:ri] n., pl. **-ries** 1. мыс -а *m.* 2. Anat. адро́ст|ак -ка *m.*

**promote** [prəˈmoʊt] v.t. 1. а) павыша́ць ра́нгам, стано́вішчам. б) перавóдзіць у вышэ́йшую кля́су. 2. падтрымо́ўваць, спрыя́ць, садзе́йнічаць: ***to promote peace*** спрыя́ць захава́ньню мі́ру. 3. дапамага́ць арганізава́ць, адкрыва́ць што: ***Several bankers promoted the new company*** Ко́лькі банкі́раў дапамаглі́ арганізава́ць но́вую кампа́нію. 4. рэклямава́ць, прапагандава́ць (*тава́р або́ кандыда́та*)

**promoter** [prəˈmoʊtər] n. 1. арганіза́тар, заснава́льнік прадпрые́мства. 2. апяку́н апекуна́ *m.*; спрыя́льнік -а *m.*

**promotion** [prəˈmoʊʃən] n. 1. павышэ́ньне (*на пра́цы*); перавóд у вышэ́йшую кля́су ў шко́ле. 2. дапамо́га ў арганізава́ньні: ***the promotion of a health campaign*** дапамо́га ў арганіза́цыі й правядзе́ньні кампа́ніі здаро́ўя

**prompt** [prɑ:mpt] – adj.1. ху́ткі, шпа́ркі. 2. неадкла́дны, безадкла́дны, ху́ткі: ***I expect a prompt answer*** Я чака́ю неадкла́днага адка́зу; ***not prompt*** запо́зьнены, по́зны
– v.t. 1. падахво́чваць, прымуша́ць, схіля́ць. 2. узбуджа́ць, выклі́ка́ць (*ду́мку*)
– v.i. падка́зваць; быць суфлёрам.
**• *a prompt box on a stage***, esp. Brit. суфлёрская бу́дка на сцэ́не

**prompter** [ˈprɑ:mptər] n. падка́зьнік, суфлёр -а *m.*

**promptly** [ˈprɑ:mptli] adv. неадкла́дна, адра́зу, ху́тка

**promulgate** [ˈprɑ:məlgeɪt] v.t. 1. абвяшча́ць. 2. распаўсю́джваць, пашыра́ць: ***to promulgate knowledge and good habits*** распаўсю́джваць ве́ды й до́брыя на́выкі

**promulgation** [ˌprɑ:məlˈgeɪʃən] n. 1. абве́шчаньне, апублікава́ньне *n.* 2. пашырэ́ньне, распаўсю́джваньне *n.*

**promulgator** [ˈprɑ:məlgeɪtər] n. 1. абвяшча́льнік -а *m.* 2. пашыра́льнік -а *m.*

**prone** [proʊn] adj. 1. схі́льны: ***We are prone to think evil of people we dislike*** Мы схі́льныя дрэ́нна ду́маць пра людзе́й, які́х мы ня лю́бім. 2. распасьцёрты; які́ ляжы́ць ні́цма

**prong** [prɔ:ŋ] – n. 1. зуб -а *m.* (*ві́дэльца, ві́лаў*). 2. ві́лы *pl. only*, разгаліна́ваньне *n.* (*даро́гі, струме́ньчыка*)
– v.t. 1. прабіва́ць, прапо́рваць ві́ламі. 2. падыма́ць ві́ламі (*се́на*), узрыхля́ць ві́ламі (*зямлю́*)

**pronged** [prɔ:ŋd] adj. 1. з зуба́мі, з зубца́мі. 2. які́ разгалíно́ўваецца

**pronominal** [proʊˈnɑ:mənəl] adj. займе́ньнікавы

**pronoun** [ˈproʊnaʊn] n. займе́ньнік -а *m.*

**pronounce** [prəˈnaʊns] v.t. 1. вымаўля́ць (*гу́кі, сло́вы*); гавары́ць. 2. вы́казваць меркава́ньне *або́* пастано́ву. 4. прызнава́ць: ***The doctor pronounced her cured*** Ле́кар прызна́ў яе́ вы́лечанай. 5. абвяшча́ць, публі́чна паведамля́ць: ***to pronounce sentence*** абвясьці́ць прысу́д

**pronounced** [prəˈnaʊnst] adj. рашу́ча вы́казаны; выра́зны, я́сны, я́ўны, відаво́чны: ***pronounced tendency*** я́ўная тэндэ́нцыя

**pronouncement** [prəˈnaʊnsmənt] n. 1. афіцы́йнае прызна́ньне; абвяшчэ́ньне *n.* 2. ду́мка *f.*, пагля́д -у *m.*; пастано́ва *f.*

**pronunciation** [prəˌnʌnsiˈeɪʃən] n. вымаўле́ньне *n.*, вымо́ва *f.*

**proof** [pru:f] n. 1. до́каз, до́вад -у *m.* 2. сьве́дчаньне *n.* 3. выпрабава́ньне *n.*, про́ба *f.*: ***to put a theory to the proof*** вы́прабаваць тэо́рыю на пра́ктыцы. 4. гра́нка *f.* (*адбі́так набра́нага тэ́ксту*), карэкту́ра *f.*: ***to correct the proofs*** пра́віць, рабі́ць карэкту́ру. 5. стандա́ртная моц алькаго́льных напо́яў, гра́дусы: ***What proof is this brandy?*** Яко́й мо́цы гэ́тае брэ́нды?

**proof-read** [ˈpru:fri:d] v. чыта́ць карэкту́ру; пра́віць, вычы́тваць гра́нкі

**proof-reader** [ˈpru:fri:dər] n. карэ́ктар -а *m.*

**proof sheet** гра́нка *f.*

**prop I** [prɑ:p] – v.t. **-pp-** 1. падпіра́ць, абапіра́ць: ***to prop up the clothes line with the stick*** падпе́рці калко́м вяро́ўку зь бялі́знай. 2. падтры́мваць, дапамага́ць
– n. 1. падпо́рка, падста́ўка *f.*; падпо́ра *f.* 2. падтры́мка, апо́ра *f.*: ***A son should be the prop of the father's old age*** Сын паві́нен быць апо́рай ба́цьку ў ста́расьці

**prop II** [prɑ:p] n., Informal, Theatr. прадме́ты абстано́ўкі ў спэкта́клі (*мэ́бля, по́суд, збро́я*), рэквізы́т -у *m.*, бутафо́рыя *f.*

**propaganda** [ˌprɑ:pəˈgændə] n. прапага́нда *f.*

**propagandist** [ˌprɑ:pəˈgændɪst] n. прапаганды́ст -а *m.*, прапаганды́стка *f.*

**propagate** [ˈprɑ:pəgeɪt] – v.i. 1. радзі́ць пато́мства. 2. размнажа́цца: ***Trees propagate themselves by seeds*** Дрэ́вы размнажа́юцца праз насе́ньне
– v.t. 1. размнажа́ць, размно́жыць, разьве́сьці, распладзі́ць (*жывёлу або́ расьлі́ны*). 2. пашыра́ць (*ве́сткі, ве́ду*). 3.перадава́цца, разыхо́дзіцца: ***Sound is propagated by vibration*** Гук перадае́цца празь вібра́цыю

**propagation** [ˌprɑ:pəˈgeɪʃən] n. 1. размнажэ́ньне, разво́джаньне (*жывёлы або́ расьлі́наў*). 2. пашырэ́ньне *n.* 3. перадава́ньне *n.* (*вібра́цыі, шо́каў землятру́су*)

**propel** [prəˈpel] v.t. **-ll-** пуска́ць у рух, ру́хаць; гна́ць напе́рад, падганя́ць, стымулява́ць: ***propel a boat by oars*** ру́хаць, гнаць чо́вен вёсламі; ***a person propelled by ambition*** чалаве́к гна́ны самалю́бствам

**propeller** [prəˈpelər] n. прапэ́лер, паве́траны *або́* грабны́ вінт

**propensity** [prəˈpensəti] n., pl. **-ties** натура́льная схі́льнасць

**proper** [ˈprɑ:pər] adj. 1. пра́вільны, адпаве́дны, нале́жны, прысто́йны, сьці́слы: ***proper behavior*** прысто́йнае трыма́ньне; ***in the proper way*** нале́жным спо́сабам; ***it is not proper*** не гадзі́цца. 2. сьці́слы, дакла́дны: ***the population of Mensk proper*** жыха́рства само́га Ме́нску (*без прадме́сьцяў*). 3. Gram. ***proper name*** ула́снае імя́

**proper fraction** пра́вільны дроб

**properly** [ˈprɑ:pərli] adv. 1. пра́вільна, як нале́жыць, адпаве́дна, як сьлед; го́дна: ***to dress properly*** адпаве́дна адзе́цца. 2. слу́шна, справядлі́ва: ***to be properly indignant at the offer of a bribe*** слу́шна абура́цца пры прапано́ве ўзя́ць ха́бар. 3. дакла́дна, ула́сна: ***Properly speaking, a whale is not a fish*** Дакла́дна ка́жучы, кіт — ня ры́ба

**property** [ˈprɑ:pərti] n., pl. **-ties** 1. со́бскасьць, ула́снасьць, ма́емасьць, маёмасьць *f.* 2. нерухо́мая маёмасьць (*зямля́, дом*). 3. бага́цьце *n.*: ***a man of property*** бага́ты чалаве́к. 4. сво́масьць, уласьці́васьць *f.*: ***natural property*** прыкме́та.

***• properties*** рэквізы́т, (*у тэа́тры*)

**prophecy** [ˈprɑ:fəsi] n., pl. **-cies** 1. прадка́званьне, праро́чаньне *n.* 2. прадказа́ньне *n.*; праро́цтва -а *n.*

**prophesy** [ˈprɑ:fəsaɪ] v., **-sied, -sying** 1. прадка́зваць. 2. праро́чыць

**prophet** [ˈprɑ:fɪt] n.1. прадказа́льнік -а *m.* прадказа́льніца *f.* 2. праро́к -а *m.*

**prophetess** [ˈprɑ:fətəs] n. жанчы́на-праро́к, праро́чыца *f.*

**prophetic** [prəˈfetɪk] adj. 1. праро́чы: ***a prophetic saying*** праро́чыя сло́вы. 2. праро́цкі, праро́чы: ***prophetic power*** праро́цкая сі́ла

**prophylactic** [ˌproʊfəˈlæktɪk] – adj. прафіляктьí чны

– n. 1. засьцерага́льны сро́дак *або́* лячэ́ньне. 2. засьцяро́га *f.* 3. прэзэрваты́ı|ў -ва *m.*

**prophylaxis** [ˌproʊfəˈlæksɪs] n. прафіля́ктыка *f.*

**propinquity** [prəˈpɪŋkwəti] n. 1. блі́зкасьць *f.* 2. блі́зкая ро́днасьць, сва́ яцтва *n.*

**propitiate** [proʊˈpɪʃieɪt] v.i. 1. ула́шчваць, задо́брываць. 2. здабыва́ць для сябе́ ла́ску, прыхі́льнасьць. 3. заміра́ць, прыміра́ць

**proportion** [prəˈpɔ:rʃən] n. 1. прапо́рцыя *f.*, ко́лькасныя адно́сіны. 2. ча́стка *f.*: ***A large proportion of Belarus is covered by forests*** Вялі́кая ча́стка Белару́сі пакры́тая ляса́мі. 4. Math. прапо́рцыя *f.* 5. Math. трайно́е пра́віла

***• proportions,*** pl. паме́р -у *m.*; паме́ры *pl.*

**proportional** [prəˈpɔ:rʃənəl] – adj. прапарцы́йны

– n. член прапо́рцыі

**proportionate** [prəˈpɔ:rʃənət] adj. сувыме́рны; прапарцы́йны

**proportionately** [prəˈpɔ:rʃənətli] adv. прапарцы́йна, сувыме́рна

**proposal** [prəˈpoʊzəl] n. 1. прапано́ва *f.*, плян -у *m.* 2. прапано́ва жані́мства

**propose** [prəˈpoʊz] v.i. 1. прапанава́ць. 2. падава́ць не́чую кандыдату́ру. 3. паднімáць, абвяшча́ць (*тост*). 4. рабі́ць прапано́ву (*жані́мства*)

**proposition** [ˌprɑ:pəˈzɪʃən] n. 1. прапано́ва *f.* 2. зая́ва *f.*, выка́званьне *n.* (*звыча́йна катэгары́чнае*). 3. тэарэ́ма *f.*

**proprietary** [prəˈpraɪəteri] – adj. 1. ула́сьніцкі. 2. які́ вало́дае ўла́снасьцю. 3. патэнтава́ны: ***a proprietary medicine*** патэнтава́ны лек

– n. **-taries** 1. ула́сьнік -а *m.* 2. ула́снасьць *f.* 3. патэнтава́ны лек

**proprietor** [prəˈpraɪətər] n. ула́сьнік -а, гаспада́р -á *m.*

**proprietress** [prəˈpraɪətrəs] n. ула́сьніца, гаспады́ня *f.*

**propriety** [prəˈpraɪəti] n., pl. **-ties** 1. пра́вільнасьць; слу́шнасьць, дарэ́чнасьць *f.* 2. прысто́йныя паво́дзіны, прысто́йнае трыма́ньне

***• proprieties*** пра́вілы прысто́йнасьці

**propulsion** [prəˈpʌlʃən] n. 1. пасо́ўваньне, штурха́ньне *n.*, рух напе́рад. 2. ру́хальная сі́ла, ру́хальны штуршо́к

**propulsive** [prəˈpʌlsɪv] adj. які́ прыво́дзіць у рух, ўзбуджа́е рух; прывадны́

**prorogation** [ˌproʊrəˈgeɪʃən] n. часо́вае спыне́ньне, адтэрміно́ўка пра́цы парля́мэнту

**prorogue** [proʊˈroʊg] v.t. спыні́ць пра́цу парля́мэнту на некато́ры час

**prosaic** [proʊˈzeɪɪk] adj. 1. празаі́чны. 2. звыча́йны, нецікáвы; будзённы

**proscribe** [proʊˈskraɪb] v.t. 1. забараня́ць. 2. абвяшча́ць па-за зако́нам. 3. ссыла́ць

**proscription** [proʊˈskrɪpʃən] n. абве́шчаньне па-за зако́нам, праскры́пцыя *f.*

**prose** [proʊz] n. 1. про́за *f.* 2. ну́дная, звыча́йная гу́тарка

**prosecute** [ˈprɑ:sɪkju:t] v.t. 1. аддава́ць пад суд. 2. ве́сьці, право́дзіць: ***to prosecute an inquiry*** право́дзіць расьсьле́даваньне

**prosecution** [ˌprɑ:sɪˈkju:ʃən] n. 1. правядзе́ньне, выко́нваньне *n.* (*пля́ну*). 2. а) судо́вае прасьле́даваньне, б) абвінава́чаньне; бок, які́ абвінава́чвае

**prosecutor** [ˈprɑ:sɪkju:tər] n. 1. абвінава́ўц|а -ы *m.*, хто падае́ ў суд. 2. ***(public) prosecutor*** пракуро́р -а *m.*

**prospect** [ˈprɑ:spekt] – n. разьлі́к -у *m.*; ві́ды на бу́дучыню, пэрспэкты́вы *pl.*: ***prospects for the harvest*** разьлі́кі на ўраджа́й. 2. чака́ньне, спадзява́ньне *n.* 3. асо́ба, яка́я мо́жа быць пакупніко́м, кандыда́там. 4. Geol. разьве́дка *f.*
– v.t. шука́ць: ***to prospect for gold*** шука́ць зо́лата
• ***in prospect*** чака́ны, спадзява́ны

**prospective** [prəˈspektɪv] adj. 1. праўдападо́бны, магчы́мы, меркава́ны, эвэнтуа́льны: ***a prospective client*** магчы́мы кліе́нт. 2. пры́шлы, бу́дучы: ***a prospective mother*** бу́дучая ма́ма

**prospectively** [prəˈspektɪvli] adv. у бу́дучыні, у пэрспэкты́ве

**prospector** [ˈprɑ:spektər] n., Geol. разьве́днік, нафташука́льнік, зо́латашука́льнік -а *m.*

**prosper** [ˈprɑ:spər] – v.i. мець вялі́кі по́сьпех, до́бра ме́цца, быць бага́тым (*пра асо́бу*); квітне́ць: ***town is prospering*** го́рад квітне́е
– v.t. спрыя́ць чыёй-н. уда́чы; рабі́ць бага́тым

**prosperity** [prɑ:ˈsperəti] n., pl. **-ties** 1. дабрабы́т -у, даста́т|ак -ку *m.*; бага́цьце *n.* 2. шча́сьце *n.*, уда́ча *f.*, по́сьпех -у *m.*

**prosperous** [ˈprɑ:spərəs] adj. 1. уда́чны, пасьпяхо́вы; бага́ты, замо́жны; шчасьлі́вы, уда́члівы. 2. спрыя́льны (*пра надво́р'е*); спадаро́жны (*пра ве́цер*)

**prostate** [ˈprɑ:steɪt] n., Anat. праста́та *f.*

**prosthesis** [prɑ:sˈθi:sɪs] n., pl.**-theses** пратэ́з -а *m.* (*шту́чная рука́, нага́, зу́бы*)

**prostitute** [ˈprɑ:stətu:t] n. 1. прастыту́тка *f.* 2. халу́|й -я́ *m.*, прада́жны чалаве́к.

**prostitution** [ˌprɑ:stəˈtu:ʃən] n. прастыту́цыя *f.*

**prostrate** [ˈprɑ:streɪt] – v.t. 1. валі́ць, кі́даць да ног, паніжа́ць, прыніжа́ць. 2. прыво́дзіць да зьнямо́гі, мардава́ць, зьнясі́льваць: ***Sickness often prostrates people*** Хваро́ба ча́ста зьнясі́львае людзе́й
– v.i. 1. па́даць ні́цма. 2. зьнемага́ць; стра́чваць сі́лы, слабе́ць, дахо́дзіць да зьнямо́гі
– adj. 1. які́ ляжы́ць ні́цма. 2. зва́лены, зьнямо́жаны, зьнясі́лены (*хваро́бай*). 3. бясьсі́льны, перамо́жаны: ***a prostrate enemy*** перамо́жаны во́раг

**prostration** [prɑ:sˈtreɪʃən] n. 1. ляжа́ньне ні́цма (*прыні́жана або́ на знак паша́ны*), прастра́цыя *f.* 2. зьнямо́жаньне *n.* (*фізы́чнае ці духо́ўнае*)

**protection** [prəˈtekʃən] n. 1. ахо́ва, абаро́на *f.*; ахо́ўваньне *n.*: ***protection of the weak*** апе́ка над слабы́мі 2. coll. пратэкцыяні́зм -у *m.* 3. ахо́ўны ліст, про́пуск, па́шпарт -а *m.*

**protectionism** [prəˈtekʃənˌɪzəm] n. пратэкцыяні́зм -у *m.*

**protective** [prəˈtektɪv] adj. 1. ахо́ўны, які́ прыкрыва́е; абараня́льны, абаро́нны, абаро́нчы. 2. Econ. пратэкцы́йны, пратэкцыяні́сцкі: ***a protective tariff*** пратэкцы́йны тары́ф

**protective coloring** ахо́ўная афарбо́ўка

**protector** [prəˈtektər] n. 1. абаро́нц|а -ы *m.*, ахо́ўнік -а *m.*; засту́пнік -а *m.*, засту́пніца *f.*; апяку́н апекуна́ *m.*, апяку́нка *f.* 2. ахо́ўная прыла́да. 3. Hist. рэге́нт А́нгліі

**protectorate** [prəˈtektərət] n. пратэктара́т -у *m.*

**protein** [ˈproʊti:n] n. пратэі́н -у; бялı|о́к -ку́ *m.*

**protest** [ˈproʊtest] – n. 1. пратэ́ст -у *m.* 2. апратэстава́ньне *n.* (*вэ́ксаля*)
– v.i. [prəˈtest] 1. пратэстава́ць. 2. пярэ́чыць, не згаджа́цца з пастано́вай. 3. апратэсто́ўваць, афіцы́йна заяўля́ць: ***to protest one's innocence*** урачы́ста заяві́ць аб сваёй нялві́ннасьці (*у су́дзе*). 4. апратэсто́ўваць (*вэ́ксаль*)

**Protestant** [ˈprɑ:tɪstənt] – n. пратэста́нт -а *m.*

– adj. 1. пратэстáнцкі. 2. **protestant** які пратэстýе

**protestant** ['prɑ:tɪstənt] n. той, хто пратэстýе, пратэстáнт -а *m.*

**Protestantism** ['prɑ:təstəntˌɪzəm] n. пратэстантызм - у *m.*

**protocol** ['proʊtəkɑ:l] n. 1. пратакóл -у *m.*, акт міжнарóднага пагаднéньня. 2. прáвілы этыкéту дыпляматы́чнага кóрпусу. 3. агýльнапрынятыя прáвілы павóдзінаў

**protract** [prə'trækt] v.t. 1. зацягваць (*візы́т, лéкцыю*). 2. выцягваць; падаўжáць, рабі́ць даўжэ́йшым. 3. малявáць у маштáбе (*кáрту, плян*)

**protractor** [prə'træktər] n. кутамéр дугавы́

**protrude** [prə'tru:d] – v.t. 1. высóўваць. 2. вытыркáць
– v.i. вытыркáцца, высóўвацца; утварáць вы́ступ, выдавáцца: ***Her teeth protrude too far*** У яé зýбы зашмáт выдаю́цца

**protrusive** [prə'tru:sɪv] adj. вы́тыркнуты, вы́сунуты

**protuberance** [prə'tu:bərəns] n. вы́ступ -у *m.* (*гары́*); вы́пукласьць *f.*; вы́гін -у *m.*

**proud** [praʊd] adj. 1. ганарлі́вы, гóрды, перакананы ў сваéй гóднасьці. 2. самаўпэ́ўнены, самазадавóлены, ганары́сты, фанабэ́рысты, пыхлі́вы; нахáбны. 3. пóўны гóнару, ганарлі́вы: ***a proud smile*** ганарлі́вая ўсьмéшка; ***a proud moment*** хвілі́на, якáя напаўня́е пачуцьцём гóнару
***proud of*** а) задавóлены *кім.* б) задавóлены дзéля *чагó*

**proud flesh** дзі́кае мя́са

**proudly** ['praʊdli] adv. 1. ганарлі́ва, з гóнарам. 2 ганары́ста; самазадавóлена; пыхлі́ва

**prove** [pru:v] v.t. 1. давóдзіць. 2. абгрунтóўваць. 3. выяўля́ць сапрáўднасьць (*асаблі́ва тэстамэ́нту*). 4. выяўля́цца; акáзвацца, быць: ***This book proved interesting*** Гэ́тая кні́га аказáлася цікáвай. 5. спрабавáць, выпрабóўваць (*áўта*). 6. спраўджáць прáвільнасьць (*матэматы́чных падлі́каў*)

**proven** ['pru:vən] v. *p.p. of* **prove**

**proverb** ['prɑ:vɜ:rb] n. 1. пры́казка *f.* 2. Figur. пры́клад, увасаблéньне: ***He is a proverb for carelessness*** Ён — увасаблéньне нядбáйства

**Proverbs** ['prɑ:vɜ:rbz] Bibl. Кні́га пры́павесьцяў Саламóнавых

**proverbial** [prə'vɜ:rbiəl] adj. 1. як пры́казка, пры́казкавы. 2. агýльнавядóмы

**provide** [prə'vaɪd] – v.t. 1. забясьпéчваць, давáць: ***Sheep provide us with wool*** Авéчкі даю́ць нам вóўну; ***A father provides for his family*** Бáцька забясьпéчвае сваю́ сям'ю́
– v.i. 1. забясьпéчвацца: ***to provide for old age*** забясьпéчыцца матэрыя́льна на стáрасьць. 2. стáвіць як умóву

**provided** [prə'vaɪdɪd] conj.: ***provided (that)*** пад умóвай, што; хібá што

**providence** ['prɑ:vɪdəns] n. 1. найвышэ́йшая вóля, найвышэ́йшая сі́ла, Бóжае наканавáньне. 2. дбáньне пра бýдучыню; ашчáднасьць *f.*; абáчлівасьць, прадбáчлівасьць *f.*

**Providence** Праві́д Бóжы

**provident** ['prɑ:vɪdənt] adj. 1. прадбáчлівы, асьцярóжны. 2. ашчáдны

**providing** [prə'vaɪdɪŋ] conj. калі́; пад умóвай, што

**province** ['prɑ:vɪns] n. 1. праві́нцыя *f.*, акрýга *f.* (*адміністрацы́йная адзі́нка*). 2. праві́нцыя *f.* 3. сфэ́ра, галінá *f.*: ***province of literature*** галінá літаратýры

**provincial** [prə'vɪnʃəl] – adj. 1. правінцы́йны. 2. мясцóвы: ***provincial newspapers*** мясцóвыя газэ́ты. 3. абмежавáны ў сваі́х пóглядах
– n. 1. правінцыя́л -а *m.*, правінцыя́лка *f.*

**provincialism** [prə'vɪnʃəlˌɪzəm] n. 1. правінцы́йныя манéры, звы́чаі. 2. абмежавáнасьць *f.* 3. дыялекты́зм -у *m.*

– v.t. 1. стáвіць, стрóіць у рад, шарэ́нгу. 2. раскладáць, разьмяшчáць: ***to rank in order of size*** разьмясьцíць павóдле велічыні́. 3. мець вышэ́йшы ранг: ***A major ranks a captain*** Маёр вышэ́йшы рáнгам за капітáна

**rank II** [ræŋk] adj. 1. буйны́, разрóслы (*пра расьлíны*). 2. ёлкі, сьмярдзю́чы. 3. крáйні, празьмéрны; íсны: ***rank nonsense*** пóўная лухтá. 4. грýбы; непрыстóйны, цынíчны, агíдны

**rank and file** радавы́я; прóстыя, звычáйныя лю́дзі

**rankle** [ˈræŋkəl] v.i. 1. гнаíцца. 2. балéць; мýчыць, гры́зьці; крóіць сэ́рца: ***The memory of the insult rankled in his mind*** Успамíн пра абрáзу ўсё яшчэ́ ягó мýчыў

**ransack** [ˈrænsæk] v.t. 1. перашýкваць, абшýкваць, ператрасáць. 2. абрабóўваць, аблýпваць

**ransom** [ˈrænsəm] – n. вы́куп -у *m.*
– v.t. 1. выкупля́ць. 2. вызваля́ць вя́зьня за вы́куп

**rant** [rænt] v. крычáць, раўсьцí, раўцí

**rap I** [ræp] n. 1. лёгкі стук: ***I heard a rap on the door*** Я пачýў лёгкі стук у дзьвéры. 2. Sl. абвінавáчаньне *n.*, вінá, кáра *f.*: ***I will take the rap for this*** Я вазьмý на сябé вінý за гэ́та; ***a bum rap*** несправядлíвае абвінавáчаньне

**rap II** [ræp] – v.i., Sl. 1. гýтарыць, балбатáць. 2. быць у згóдзе, у дóбрых дачынéньнях. 3. сьпявáць рэп
– n. Sl. 1. гýтарка (*сябрóўская*) *f.* 2. рытмíчная гавóрка; рэчытаты́|ў -ву, рэп -у *m.*

**rapacious** [rəˈpeɪʃəs] adj. 1. хцíвы, сквáпны. 2. драпéжны

**rapacity** [rəˈpæsəti] n. 1. хцíвасьць, сквáпнасьць *f.* 2. драпéжніцтва *n.*

**rape I** [reɪp] – n. 1. згвалтавáньне *n.*, гвалт -у *m.* 2. гвалтóўны напáд; гвалтóўны захóп
– v.t. 1. гвалтавáць. 2. пустóшыць

**rape II** [reɪp] n., Bot. рапс -у *m.*, сьвірэ́па *f.*

**rapid** [ˈræpɪd] – adj. 1. шпáркі, хýткі, бы́стры: ***a rapid growth*** хýткі рост. 2. стрóмы, круты́
– n., **rapids,** pl. парóгі ракí, стрóма ракí

**rapidity** [rəˈpɪdəti] n. шпáркасьць, хýткасьць *f.*

**rapidly** [ˈræpɪdli] adv. шпáрка, хýтка, бóрзда

**rapid transit** хýткі гарадзкí і пры́гарадны трáнспарт

**rapist** [ˈreɪpɪst] n. гвалтаўнíк -á *m.*

**rapport** [ræˈpɔːr] n. узаéмаразумéньне *n.*, кантáкт -у, лад -у *m.*: ***We have a good rapport*** Мы дóбра лáдзім

**rapt** [ræpt] adj. захóплены, паглы́блены; пóўны рáдасьці

**raptorial** [ræpˈtɔːriəl] adj. драпéжны

**rapture** [ˈræptʃər] n. 1. захаплéньне *n.*; вялíкая рáдасьць. 2. пары́ў рáдасьці

**rare I** [rer] adj. 1. рэ́дкі: ***a rare book*** рэ́дкая кнíга. 2. рэ́дкі, незвычáйны, выклю́чны: ***a rare event*** незвычáйная падзéя. 3. рэ́дкі, негусты́

**rare II** [rer] adj. сыравáты, недапéчаны

**rarefy** [ˈrerəfaɪ] – v.t. **-fied, -fying** 1. разрэ́джваць, рабíць радчэ́йшым. 2. ачышчáць, рафінавáць
– v.i. разрэ́джвацца

**rarely** [ˈrerli] adv. 1. рэ́дка, нячáста. 2. незвычáйна

**rareness** [ˈrernəs] n. 1. рэ́дкасьць, радчыня́ *f.* 2. сыравáтасьць *f.*

**rarity** [ˈrerəti] n., pl. **-ties** 1. рэ́дкасьць *f.* 2. радчыня́, рэ́дкасьць *f.*: ***the rarity of mountain air*** рэ́дкасьць гóрнага павéтра

**rascal** [ˈræskəl] n. 1. нягóднік -а, махля́р -á *m.* 2. свавóльнік -а *m.*, гарэ́з|а -ы *m. & f.*

**rash I** [ræʃ] adj. пасьпéшны, неразвáжны; неразвáжлівы; рызыкóўны

**rash II** [ræʃ] n. вы́сыпка *f.*, сып -у *m.*

**rashness** [ˈræʃnəs] n. пасьпéшнасьць, неразвáжлівасьць *f.*; рызыкóўнасьць *f.*

**rasp** [ræsp] – v.i. 1. скрыгатáць, скры́гаць. 2. хрыпéць, сíпéць: ***to rasp out a command*** прахрыпéць камáнду
– v.t. 1. дзéяць на нэ́рвы, рэ́заць вýха. 2. абдзірáць, саскрэ́бваць
– n. 1. скры́гат -у *m.*, рыпýчыя гýкі. 2. рáшпіл|ь -я *m.*

**raspberry** [ˈræzˌberi] – n., pl. **-ries** 1. малі́на *f.* 2. малі́навы ко́лер
– adj. малі́навы: ***raspberry liquor*** малі́навік -а *m.*, малі́наўка *f.*

**rat** [ræt] – n. 1. пацу́к -а́ *m.* 2. Sl. непрыя́льны чалаве́к, здра́днік -а, стука́ч -а́ *m.*
– v.i. 1. лаві́ць пацукоў. 2. Sl. здра́джваць, дано́сіць
• ***rat race*** беганіна, мітусьня́ *f.*
• ***smell a rat,*** Informal падазрава́ць не́шта нядо́брае

**rate I** [reɪt] – n. 1. тэ́мп -у *m.*, ху́ткасьць *f.*: ***at the rate of 80 kilometers an hour*** з ху́ткасьцю 80 кілямэ́траў на гадзі́ну; ***at a steady rate*** са ста́лай ху́ткасьцю. 2. но́рма *f.*, паме́р -у *m.*; ко́лькасьць, цана́ *f.*: ***We pay the regular rate*** Мы пла́цім нарма́льную цану́; ***postal rates*** паштовыя тары́фы. 3. кля́са *f.*, ра́нг -у *m.*: ***He is a first rate artist*** Ён першакля́сны маста́к
– v.t. 1. ацэ́ньваць. 2. лічы́ць, ува-жа́ць за *каго́-што*: ***He was rated the best poet of his time*** Яго́ лічы́лі за найле́пшага паэ́та яго́ных часоў. 3. вызнача́ць паме́р пада́тку. 4. заслужы́ць: ***He rated a prize*** Ён заслужы́ў узнагаро́ду
• ***at any rate*** ува ўся́кім вы́падку, у ко́жным ра́зе
• ***birth rate*** нараджа́льнасьць
• ***death rate*** сьмяро́тнасьць

**rate II** [reɪt] v.t. га́ніць

**rate of exchange** валю́тны курс, курс абме́ну

**ratepayer** [ˈreɪtˌpeɪər] n., Brit. пла́тнік гарадзко́га пада́тку

**rather** [ˈræðər] adv. 1. лепш; бархджэ́й, хутчэ́й: ***I would rather go today than tomorrow*** Я лепш пайшоў бы сёньня, чым за́ўтра: ***He is stupid rather than honest*** Ён хутчэ́й дурны́, чы́мся сумле́нны. 2. больш адпаве́дна, лепш ка́жучы: ***late last night or rather early this morning*** по́зна ўчо́ра ўначы́, ці, лепш ка́жучы, сёньня з са́май ра́ніцы. 3. ве́льмі, даво́лі: ***rather good*** до́сыць до́бры. 4. наадваро́т: ***The sick man is no better today, rather, he is worse*** Хво́раму сёньня ня лепш, а наадваро́т, горш

**ratification** [ˌrætɪfɪˈkeɪʃən] n. зацьве́рджаньне *n.*, ратыфіка́цыя *f.*

**ratify** [ˈrætəfaɪ] v., **-fied, -fying** зацьве́рдзіць; ратыфікава́ць

**rating I** [ˈreɪtɪŋ] n. ацэ́нка *f.*, рэ́йтынг -у *m.*

**rating II** [ˈreɪtɪŋ] n. наганя́й -ю *m.*, прачуха́нка *f.*

**ratio** [ˈreɪʃioʊ] n. прапо́рцыя *f.*, суадно́сіны *pl.*

**ration** [ˈræʃən] – n. но́рма *f.*, рацыён -у *m.*, паёк -йка́, по́рцыя *f.*
– v.t. 1. выдава́ць паёк. 2. абмяжоўваць но́рму
• ***ration an army*** забясьпе́чваць а́рмію правіза́яй

**rational** [ˈræʃənəl] adj. разу́мны; рацыяна́льны
• ***rational fraction*** пра́вільны дроб

**rationale** [ˌræʃəˈnæl] n. 1. асноўная прычы́на. 2. абгрунтава́ньне *n.*: ***What is the rationale for your suggestion?*** Чым ва́шая прапано́ва абгрунтава́ная?

**rationality** [ˌræʃəˈnæləti] n. разу́мнасьць, рацыяна́льнасьць *f.*

**rationalize** [ˈræʃənəlaɪz] v.t. 1. абгрунто́ўваць. 2. апра́ўдваць, тлума́чыць: ***to rationalize one's behavior*** апра́ўдваць свае́ паво́дзіны

**rattle** [ˈrætəl] – v. 1. бражджэ́ць; бразгаце́ць, бразгата́ць; груката́ць, тарахце́ць: ***The wind rattled the windows*** Во́кны бражджа́ць ад ве́тру; ***The old car rattled down the street*** Старо́е а́ўта пратарахце́ла па ву́ліцы. 2. балбата́ць, ху́тка гавары́ць, бараба́ніць: ***The speaker rattled on about the state of the economy*** Прамо́ўца бараба́ніў аб эканамі́чным ста́не 3. Informal бянтэ́жыцца: ***She was so rattled that she forgot her speech*** Яна́ так зьбянтэ́жылася, што забы́лася што гавары́ць
– n. 1. бра́згат, гру́кат -у *m.*; брынчэ́ньне, тарахце́ньне *n.* 2. балбатня́, траскатня́ *f.* 3. бразго́тка *f.* (*дзіця́чая*

*або музычны інструмэнт*). 4. кóлцы на хвасьцé грымýчае зьмяí

**rattler** [ˈrætlər] n. бразгóтка *f.*

**rattlesnake** [ˈrætəlsneɪk] n. грымýчая зьмяя́

**rat trap** [ˈrættræp] n. 1. пáстка на пацукóў. 2. Figur. безнадзéйнае станóвішча

**ravage** [ˈrævɪdʒ] – v.t. спусташáць; зьнішчáць

– n. спусташэ́ньне, зьнішчэ́ньне; разбурэ́ньне *n.*: ***War causes ravage*** Вайнá нясé вялíкія спусташэ́ньні

**rave** [reɪv] – v.i. 1. гарлáніць, крычáць разьюшана. 2. гаварыць зь вялíкім запáлам; мóцна захапля́цца: ***She raved about the book*** Янá захóплена раскáзвала пра кнíжку

– n. 1. шалéнства *n.*, разьюшанасьць, лю́тасьць *f.* 2. вялікае ўзбуджэ́ньне, празьмéрнае расхвáльваньне *або* захаплéньне

• ***rave reviews*** пахвáльныя рэцэ́нзіі

**ravel** [ˈrævəl] v. 1. пашáрпацца, прадзéрціся да нíткі. 2. заблы́таць, заблы́тацца

**raven I** [ˈreɪvən] – n. крумкáч, груган -á *m.*

– adj. бліскýча чóрны

**raven II** [ˈrævən] v.t. 1. жэ́рці; пажырáць; прáгна éсьці. 2. шукáць нажы́вы, пустóшыць

**ravenous** [ˈrævənəs] adj. 1. вéльмі галóдны, пражэ́рлівы: ***I am ravenous*** Я галóдны, як воўк. 2. прáгны, прагавíты; хцíвы: ***He was ravenous for praise*** Ён прáгнуў пахвалы́

**ravine** [rəˈvi:n] n. роl̆ў -ву *m.*, яр -у *m.*

**raving** [ˈreɪvɪŋ] – adj. 1. ашалéлы, у стáне тры́зьненьня. 2. Informal надзвычáйны, выдáтны

– n. тры́зьненьне, шал -у *m.*: ***the raving of a dictator*** шал дыктáтара

**ravish** [ˈrævɪʃ] v.t. 1. сíлай схапíць, вы́красьці, скрáсьці. 2. згвáлціць. 3. захапíць (*зацікáвіць*)

**raw** [rɔ:] – adj. 1. сыры́, нявáраны. 2. неабрóблены, неапрацавáны: ***raw materials*** сыравíна *f.*; ***raw hides*** нявы́рабленыя скýры. 3. недасьвéдчаны; ненавýчаны: ***a raw recruit*** ненавýчаны навабрáнец. 4. зóлкі, сыры́, пранíзьлівы: ***raw weather*** зóлкае надвóр'е. 5. нецывілізавáны; брутáльны. 6. балю́чы, адчувáльны: ***raw feelings*** нехавáныя пачýцьці; ***raw wound*** адкры́тая рáна

– n. 1. гóлае цéла. 2. рáнка на цéле

• ***in the raw*** гóлы

**raw-boned** [ˌrɔ:ˈbound] adj. кашчáвы; вéльмі худы́, скýра ды кóсьці

**ray I** [reɪ] – n. 1. прамéнь -я, прóмень -я, *m.* 2. прóбліск -у *m.*: ***not a ray of hope*** ні прóбліску надзéі

– v.t. 1. праменявáць, выпрамéньваць. 2. апрамéньваць

**ray II** [reɪ] n. скат -а *m.* (*ры́ба*)

**rayon** [ˈreɪɑ:n] n. віскóза *f.*, штýчны шоўк

**raze**, *тс.* **rase** [reɪz] v.t. разбáльваць; знóсіць, зьнішчáць дашчэ́нту

**razor** [ˈreɪzər] n. бры́тва *f.*, прылáда да галéньня

• ***razor blade*** лязó брытвы́, лязó *n.*

**re I** [reɪ] n. рэ (*нóта*)

**re II** [ri:] prep. што даты́чыць, што даты́чыцца; у спрáве

**re- III,** prefix, ізнóў, нáнава, яшчэ́ раз; назáд

• ***recall*** прыпóмніць; адклікаць

• ***re-import*** увóзіць назáд

• ***repay*** адплацíць, аддáць доўг

• ***re-read*** перачы́тваць

**reach** [ri:tʃ] – v.t. 1. дасягáць, дахóдзіць, ахапля́ць: ***Radio reaches millions*** Рáдыёперадáчы дахóдзяць да мільёнаў; ***The anchor reached bottom*** Якар дасягнýў дна; ***to reach old age*** дажы́ць да стáрасьці. 2. працягвáць рукý па штó: ***to reach toward a book*** працягнýць рукý па кнíгу. 3. дахóдзіць: ***to reach the top of a hill*** дайсьцí да верхавíны ўзгóрка; ***to reach the agreement*** дайсьці да згóды, пагаднéньня. 4. даставáць рукóю: ***I cannot reach the ceiling*** Я не магý дастáць да стóлі

– n. 1. дóсяг -у *m.*, дасягáльнасьць *f.*: ***within easy reach*** дастýпна, дасягá-

льна; ***out of reach of the guns*** па́-за дасяга́льнасьцю гарма́тнага агню́. 3. прасьця́г, разма́х -у *m.*, шыр *f.*: ***a reach of woodland*** прасьця́г лясо́ў

**reachable** [ˈri:tʃəbəl] adj. дасяга́льны, дасту́пны

**react** [riˈækt] v.i. 1. рэагава́ць. 2. хімі́чна дзе́яць, уступа́ць у рэа́кцыю: ***to react against*** рэагава́ць супраць

**reaction** [riˈækʃən] n. 1. рэа́кцыя *f.*: ***What was his reaction to the news?*** Як ён зрэагава́ў на гэ́тую наві́ну? 2. хімі́чная рэа́кцыя. 3. вы́нік -у *m.*: ***Fever is a reaction from a chill*** Гара́чка — вы́нік прасту́ды

**reactionary** [riˈækʃəneri] – adj. рэакцы́йны

– n., pl. **-aries** рэакцыяне́р -а *m.*

**reactive** [riˈæktɪv] adj. рэакты́ўны

**reactor** [riˈæktər] n., Electr., Phys. рэа́ктар -а *m.*

**read I** [ri:d] v., **read** [red], **reading** 1. чыта́ць. 2. пака́зваць: ***The thermometer reads 70 degrees*** Тэрмо́мэтар пака́звае 70 гра́дусаў. 3. разуме́ць: ***read a person's mind*** чыта́ць чые́-н. ду́мкі. 4. гучэ́ць: ***This line reads differently in the first edition*** Гэ́ты радо́к гучы́ць іна́кш у пе́ршым выда́ньні. 5. вычы́тваць, уклада́ць: ***you read too much into my statement*** ты зашма́т уклада́еш у маё выка́званьне

• ***a well read person*** начы́таная асо́ба

• ***I read you loud and clear*** Я цябе́ до́бра разуме́ю

• ***read between the lines*** чыта́ць памі́ж радко́ў

• ***read through*** прачыта́ць ад ко́ркі да ко́ркі

**readable** [ˈri:dəbəl] adj. 1. лёгкі для чыта́ньня, ціка́вы. 2. чытэ́льны

**reader** [ˈri:dər] n. 1. чыта́ч -а́ *m.* 2. чыта́нка, хрэстама́тыя *f.*; падру́чнік -а *m.* 3. карэ́ктар -а *m.* 4. дэкляма́тар -а *m.* 5. рэцэнзэ́нт -а *m.*

**readily** [ˈredɪli] adv. 1. ахво́ча. 2. лёгка. 3. ху́тка, безадкла́дна: ***to answer readily*** ху́тка адказа́ць

**readiness** [ˈredɪnəs] n. 1. гато́васьць, падрыхтава́насьць *f.* 2. бы́страсьць, лёгкасьць *f.* 3. ахво́та *f.*

**reading** [ˈri:dɪŋ] – n. 1. чыта́ньне, чытво́ *n.*: ***poetry reading*** чыта́ньне паэ́зіі. 2. інтэрпрэта́цыя *f.* 3. начы́танасьць *f.*

– adj. для чыта́ньня: ***reading glasses*** акуля́ры для чыта́ньня

**reading room** чыта́льня *f.*

**readmit** [ˌri:ədˈmɪt] v.t. прыня́ць зно́ў

**ready** [ˈredi] adj. 1. гато́вы: ***Dinner is ready*** Абе́д гато́вы. 2. ахво́чы, зго́дны. 3. шпа́ркі, бы́стры, спры́тны: ***to have a ready wit*** быць дасьці́пным

• ***get ready*** рыхтава́цца, зьбіра́цца

• ***make ready*** рыхтава́ць

• ***ready money*** ная́ўныя гро́шы

**ready-made** [ˌrediˈmeɪd] adj. 1. гато́вы, зро́блены. 2. Figur. шабло́нны (*адка́з*)

**reagent** [ˌriˈeɪdʒənt] n., Chem. рэакты́ў -ву *m.*

**real** [ˈri:əl] adj. сапра́ўдны, рэчаі́сны; непадро́блены: ***a real diamond*** сапра́ўдны дыямэ́нт

**real estate** нерухо́мая маёмасьць

**realism** [ˈri:əˌlɪzəm] n. рэалі́зм -у *m.*

**realist** [ˈri:ələst] n. рэалі́ст -а *m.*, рэалі́стка *f.*

**realistic** [ˌri:əˈlɪstɪk] adj. 1. рэалісты́чны. 2. практы́чны

**reality** [riˈæləti] n., pl. **-ties** запра́ўднасьць, сапра́ўднасьць, рэчаі́снасьць, рэа́льнасьць *f.*

• ***in reality*** сапраўды́; факты́чна, у рэчаі́снасьці, на са́май спра́ве

**realization** [ˌri:ələˈzeɪʃən] n. 1. усьведамле́ньне *n.* 2. рэаліза́цыя *f.*, ажыцьцяўле́ньне, зьдзяйсьне́ньне *n.*

**realize** [ˈri:əlaɪz] v.t. 1. разуме́ць, ве́даць; усьведамля́ць. 2. ажыцьцяўля́ць, зьдзяйсьня́ць

**really** [ˈri:li] adv. сапраўды́, факты́чна ***Oh, really?*** Няўжо́? Пра́ўда?

**realm** [relm] n. 1. валада́рства, гаспада́рства *n.*: ***the realm of fancy*** валада́рства фанта́зіі. 2. сфэ́ра, галіна́ *f.*: ***the realm of biology*** галіна́ біялёгіі

**realtor** [ˈri:əltər] n. аге́нт про́дажу нерухо́масьці, ры́алтар -а *m.*

**realty** [ˈri:əlti] n. нерухо́масьць *f.*

**reap** [ri:p] v.t. 1. жаць, пажына́ць: ***reaping the fruit of one's labor*** пажына́ць плады́ сваё пра́цы. 2. зьбіра́ць (*ураджа́й*). 3. атрым́ваць як узнагаро́ду

**reaper** [ˈri:pər] n. 1. жн|е́ц -яца́ *m.*; жняя́, жне́йка *f.* 2. жняя́рка *f.* (*машы́на*)

**rear I** [rɪr] – n. 1. за́дняя ча́стка; зад -у *m.* 2. тыл (*а́рміі або́ флёту*)

– adj. за́дні, тылавы́, ты́льны: ***the rear door*** за́днія дзьве́ры

• ***at*** or ***in the rear of*** ззаду

**rear II** [rɪr] v.t. 1. гадава́ць, выро́шчваць, разво́дзіць; узгадо́ўваць. 2. узно́сіць, будава́ць. 3. падыма́ць: ***to rear one's head*** падыма́ць галаву́. 4. станаві́цца дубка́: ***The horse reared*** Конь стаў дубка́

**rear admiral** контрадміра́л -а *m.*

**rear guard** ар'ерга́рд -у *m.*

**rearm** [ˌri:ˈɑ:rm] v. пераўзбро́йваць; пераўзбро́йвацца

**rearmost** [ˈrɪrmoʊst] adj. са́мы за́дні, апо́шні

**rearrange** [ˌri:əˈreɪndʒ] v.t. ула́джваць нано́ва, перастаўля́ць

**reason** [ˈri:zən] – n. 1. прычы́на, падста́ва *f.*: ***I have my own reasons for doing this*** Я ма́ю сваё прычы́ны на гэ́та; ***not without a reason*** небеспадста́ўна, нездарма́; ***for some reason*** чаму́сьці; ***for that very reason*** якра́з таму́; ***to have every reason*** мець усё падста́вы. 2. апраўда́ньне, тлумачэ́ньне *n.* 3. ро́зум -у *m.*, развА́га, разва́жнасьць *f.*

– v. ду́маць, мы́сьліць, разважа́ць

• ***bring to reason*** прымуша́ць абду́мацца, прыво́дзіць да ро́зуму

• ***by reason of*** дзе́ля чаго́

• ***reason out*** рабі́ць выснову

• ***stand to reason*** быць відаво́чным, зразуме́лым: ***It stands to reason that he would resent your insults*** Зразуме́ла, што ён бу́дзе пакры́ўджаны ва́шымі абра́замі

**reasonable** [ˈri:zənəbəl] adj. 1. разва́жны, разу́мны. 2. памярко́ўны; справядлі́вы. 3. недарагі́: ***The price of the dress is reasonable*** Суке́нка не дарага́я

**reasonably** [ˈri:zənəbli] adv. 1. разу́мна, разва́жна. 2. памярко́ўна. 3. ня́до́рага

**reasoning** [ˈri:zənɪŋ] n. 1. развджа́ньне *n.* 2. тлумачэ́ньні *pl.*, аргумэнта́цыя *f.*

**reassemble** [ˌri:əˈsembəl] v. зьбіра́ць, склада́ць нано́ва

**reassess** [ˌri:əˈses] v.t. нано́ва ацэ́ньваць, пераацэ́ньваць

**reassign** [ˌri:əˈsaɪn] v.t. прызнача́ць на і́ншае ме́сца, пераво́дзіць

**reassure** [ˌri:əˈʃʊr] v.t. 1. упэ́ўніваць; перако́нваць. 2. супако́йваць: ***His words were reassuring*** Яго́ныя сло́вы супако́ілі. 3. запэ́ўніваць

**reawakening** [ˌri:əˈweɪkənɪŋ] n. но́вае абуджэ́ньне, адраджэ́ньне *n.*

**rebate** [ˈri:beɪt] n. зьні́жка, скі́дка *f.*

**rebel** [ˈrebəl] – n. 1. паўста́н|ец -ца *m.*, паўста́нка *f.* 2. бунта́р -а́ *m.*, бунта́рка *f.*, бунтаўні́к -а́ *m.*, бунтаўні́ца *f.*

– adj. 1. бунта́рскі. 2. бунта́рны, паўста́нцкі

– v.i. [rɪˈbel] **(-ll-)** 1. бунтава́ц|ь (-ца). 2. паўстава́ць

• ***Rebel*** канфэдэра́цкі жаўне́р

**rebellion** [rɪˈbeljən] n. 1. бунт -у *m.* 2. паўста́ньне *n.*

**rebellious** [rɪˈbeljəs] adj. 1. непаслухмя́ны, непако́рны. 2. бунта́рны, бунта́рскі; паўста́нскі, паўста́нчы

**rebirth** [ˌri:ˈbɜ:rθ] – n. адраджэ́ньне *n.*

– adj. адраджэ́нскі

**reborn** [ˌri:ˈbɔ:rn] adj. адро́джаны

**rebound** [ˌrɪˈbaʊnd] – v.i. 1. адско́кваць. 2. адбіва́цца; вярта́цца да ране́йшага ста́ну (***пасьля́ няўда́чы***)

– n. [ˈrɪ:baʊnd] адско́к -у *m.*, адбі́цьцё *n.*, рыкашэ́т -у *m.*

• ***on the rebound*** з адско́ку, рыкашэ́там

**rebuff** [rɪˈbʌf] – n. адпо́р -у *m.*, рэ́зкая адмо́ва

– v.t. даць адпо́р, рэ́зка адмо́віць

**rebuild** [ˌri:ˈbɪld] v.t. **-built, -building** адбудо́ўваць, нано́ва будава́ць

**rebuilt** [ˌri:ˈbɪlt] adj. адбудава́ны

**rebuke** [rɪˈbju:k] – v.t. 1. папрака́ць, упіка́ць; дакара́ць. 2. га́ніць; сварыі́цца
– n. дако́р, папро́к -у *m.*, нага́на *f.*

**rebut** [rɪˈbʌt] v.t. аспрэ́чваць, адкіда́ць, абвярга́ць

**rebuttal** [rɪˈbʌtəl] n. аспрэ́чваньне, абвярга́ньне *n.*

**recalcitrant** [rɪˈkælsɪtrənt] adj. непако́рны, непаслухмя́ны: ***recalcitrant person*** непако́ра -ы, не́слух -а *m.*

**recalculate** [rɪˈkælkjəleɪt] v. пералі́чваць

**recall** [rɪˈkɔ:l] – v.t. 1. успаміна́ць, прыпаміна́ць, прыга́дваць: ***I can't recall*** Не магу́ прыпо́мніць. 2. а) адклі́каць: ***The ambassador was recalled*** Амбаса́дар быў адклі́каны; ***The order cannot be recalled*** Зага́д ня мо́жа быць адклі́каны. б) браць наза́д: ***The car was recalled because of faulty breaks*** Аўтамабі́ль узя́лі наза́д дзе́ля няспра́ўных тармазо́ў
– n. 1. прыпаміна́ньне *n.* 2. адклі́каньне *n.* 3. скасава́ньне *n.*

**recant** [rɪˈkænt] v.t. 1. публі́чна адмаўля́цца (*ад пераканáньняў, сло́ваў*). 2. адрака́цца

**recapitulate** [ˌri:kəˈpɪtʃəleɪt] v. паўтара́ць; падсумо́ўваць

**recapitulation** [ˌri:kəˌpɪtʃəˈleɪʃən] n. падсумава́ньне *n.*, рэзюмэ́ *n., indecl.*

**recapture** [ˌri:ˈkæptʃər] v.t. 1. здабыва́ць ізно́ў, лаві́ць ізно́ў, атры́мваць наза́д. 2. Figur. перажыва́ць ізно́ў

**recede** [rɪˈsi:d] v.i. 1. адступа́ць, адыхо́дзіць, адсо́ўвацца. 2. адхіля́цца

**receipt** [rɪˈsi:t] – n. 1. пакватава́ньне *n.*, квіта́нцыя *f.*, квіт -а́ *m.*, квіт|о́к -ка́ *m.* 2. атрыма́ньне *n.*: ***on receipt of your letter*** па атрыма́ньні ва́шага ліста́
– v.t. дава́ць квіта́нцыю

**receive** [rɪˈsi:v] v.t. 1. атры́мваць: ***I received a Christmas present*** Я атрыма́ла каля́дны падару́нак. 2. прыма́ць: ***Your request will receive atention*** Ва́шая про́сьба бу́дзе прыня́тая пад ува́гу; ***She was received with open arms*** Яе́ прынялі́ ве́льмі сардэ́чна. 3. успрыма́ць: ***How was your suggestion received?*** Як успрынялі́ тваю́ прапано́ву?

**receiver** [rɪˈsi:vər] n. 1. атрыма́льнік -а *m.*, атрыма́льніца *f.* 2. тэлефо́нная тру́бка. 3. прыма́ч -а́, прыёмнік -а (*радыё, тэлевізі́йны*)

**recent** [ˈri:sənt] adj. няда́ўны, найно́ўшы: ***a recent period in history*** найно́ўшы пэры́яд у гісто́рыі

**recently** [ˈri:səntli] adv. няда́ўна, надо́ечы

**receptacle** [rɪˈseptəkəl] n. 1. ёмістасьць, зьме́сьцішча *n.* 2. Bot. кветало́жа *f.* 3. (*штэ́псэльная*) разэ́тка *f.*

**reception** [rɪˈsepʃən] n. 1. пры́няцьце *n.*, прыймо́ *n.*: ***a warm reception*** цёплае прыня́цьце. 2. успрыма́ньне *n.* 3. (*радыё, тэлевізі́йны*) прыём -у *m.*
• ***reception clerk*** рэгістра́тар -а *m.*
• ***reception desk*** рэгістрацы́я, рэгістрату́ра *f.*
• ***reception hours*** гадзі́ны прыйма́ (*пацые́нтаў, клiе́нтаў*)

**receptionist** [rɪˈsepʃənɪst] n. сакрата́рка, яка́я прыма́е наве́днікаў, кліе́нтаў

**receptive** [rɪˈseptɪv] adj. успрыма́льны

**receptivity** [ˌri:sepˈtɪvəti] n. успрыма́льнасьць *f.*

**recess** [ˈri:ses] – n. 1. перапы́н|ак -у *m.*: ***a short recess before the next meeting*** каро́ткі перапы́нак перад насту́пным пасе́джаньнем. 2. паглыбле́ньне ў сьцяне́, ні́ша *f.* 3. адасо́блены заку́так; заці́шны куто́чак: ***in the recesses of the heart*** у глыбіні́ сэ́рца
– v.i. рабі́ць перапы́нак, перапыня́цца: ***The convention recesses until afternoon*** Пра́ца зье́зду перапыня́ецца да паабе́дзеннага ча́су

**recession** [rɪˈseʃən] n. 1. адступле́ньне *n.*, адыхо́д -у *m.* 2. спад -у *m.*, зьніжэ́ньне *n.* 3. рэцэ́сія *f.*

**recessive** [rɪˈsesɪv] adj. 1. які́ адыхо́дзіць, аддаля́ецца. 2. Biol. рэцэсі́ўны: ***a recessive trait*** рэцэсі́ўная прыкме́та

**recharge** [ˌri:ˈtʃɑ:rdʒ] v.t. перазараджа́ць: ***to recharge a battery*** на́нава зарадзі́ць батарэ́ю

**recidivist** [rɪˈsɪdɪvɪst] n. рэцыдывíст -а *m.*, рэцыдывíстка *f.*

**recipe** [ˈresəpi] n. рэцэ́пт -у *m.*: ***a recipe for happiness*** рэцэ́пт на шча́сьце

**recipient** [rɪˈsɪpiənt] n. атрыма́льнік -а *m.*, атрыма́льніца *f.*

**reciprocal** [rɪˈsɪprəkəl] – adj. 1. узае́мны: ***reciprocal distrust*** узае́мны недаве́р. 2. адваро́тны

– n. адваро́тны лік: ***The reciprocal of 3 is 1/3*** Адваро́тны лік да 3 — 1/3

**reciprocally** [rɪˈsɪprəkəli] adv. узае́мна

**reciprocate** [rɪˈsɪprəkeɪt] – v.t. узае́мна адпла́чваць

– v.i. 1. абме́ньвацца: ***He paid me a compliment and I reciprocated*** Мы абмяня́ліся кампліме́нтамі. 2. ру́хацца туды́ і наза́д

**reciprocity** [ˌresɪˈprɑːsəti] n. узае́мнасьць *f.*

**recital** [rɪˈsaɪtəl] n. 1. апавяда́ньне *n.*, апо́вед, вы́клад -у *m.* 2. со́льны канцэ́рт

**recitation** [ˌresɪˈteɪʃən] n. 1. маста́цкае чыта́ньне, дэкляма́цыя *f.* 2. пералі́к -у *m.*, падрабя́зны раска́з: ***We heard a recitation of her achievements*** Мы пачу́лі падрабя́зны раска́з яе́ дасягне́ньняў

**recite** [rɪˈsaɪt] v.t. 1. падрабя́зна раска́зваць, пералі́чваць. 2. дэклямава́ць, па-маста́цку чыта́ць

**reckless** [ˈrekləs] adj. няўва́жны; неасьцяро́жны, легкаду́мны, нядба́лы: ***a reckless driver*** неасьцяро́жны кіро́ўца

**recklessly** [ˈrekləsli] adv. неразва́жліва; неасьцяро́жна; няўва́жна

**recklessness** [ˈrekləsnəs] n. безразва́жлівасьць, неасьцяро́жнасьць *f.*

**reckon** [ˈrekən] – v.t. 1. падлі́чваць: ***She never reckons the cost*** Яна́ ніко́лі не падлі́чвае кошт. 2. лічы́ц|ь (-ца): ***This person is to reckoned with*** З гэ́тай асо́бай трэ́ба лічы́цца

– v.i. 1. разьлі́чваць, спадзява́цца: ***I reckon the weather will be good*** Спадзяю́ся, што надво́р'е бу́дзе до́брае. 2. разьлі́чвацца, распла́чвацца

**reckoning** [ˈrekənɪŋ] n. 1. падлі́к -у *m.*, раху́ба *f.*: ***by my reckoning*** паво́дле маі́х падлі́каў. 2. распла́та, спла́та *f.*; разьлі́к -у *m.*

**reclaim** [rɪˈkleɪm] v.t. 1. вярта́ць для ўжы́тку: ***to reclaim the swamp*** зрабі́ць бало́та прыда́тным для ўжы́тку. 2. дамага́цца зваро́ту; забіра́ць наза́д: ***I reclaimed my property*** я дамо́гся зваро́ту маёмасьці. 3. выпраўля́ць, паравыхо́ўваць

**reclamation** [ˌrekləˈmeɪʃən] n. 1. асвае́ньне, вярта́ньне прыда́тнасьці; мэлійра́цыя *f.* 2. выпраўле́ньне, паляпшэ́ньне. 3. паравыхава́ньне

**reclassify** [rɪˈklæsəfaɪ] v.t. пераклясыфіко́ўваць, перавóдзіць у і́ншую катэго́рыю

**recline** [rɪˈklaɪn] v.i. 1. адкіда́цца, адхіна́цца наза́д: ***He reclined his head on the sofa*** Ён адхіну́ў галаву́ на кана́пу. 2. ле́гчы, прыле́гчы

**recluse** [ˈrekluːs] – n. пустэ́льнік -а *m.*, пустэ́льніца *f.*; адзіно́тнік, само́тнік -а *m.*, само́тніца *f.*

– adj. пустэ́льніцкі; само́тніцкі

**recognition** [ˌrekəˈgnɪʃən] n. 1. пазнава́льнасьць *f.*; пазна́ньне *n.*: ***She changed beyond recognition*** Яна́ зьмяні́лася да непазнава́льнасьці. 2. прызна́ньне *n.*: ***We insisted on complete recognition of our rights*** Мы дамага́ліся по́ўнага прызна́ньня на́шых право́ў; ***The actor soon won recognition from the public*** Акто́р ху́тка заваява́ў прызна́ньне ў гледачо́ў; ***In 1991 Belarus received recognition as an independent country*** У 1991 го́дзе Белару́сь была́ прызна́ная незале́жнай дзяржа́вай. 3. адзначэ́ньне (*узнагаро́дай*), ушанава́ньне *n.*

**recognizable** [ˌrekəˈgnaɪzəbəl] adj. пазнава́льны

**recognizance** [rɪˈkɑːgnɪzəns] n. 1. Law пісьмо́вае абавяза́ньне, да́дзенае ў судзе́. 2. закла́д -у *m.*

**recognize** [ˌrekəgnaɪz] v.t. 1. пазнава́ць: ***I could scarcely recognize my old***

***friend*** Я ледзь пазна́ў свайго́ да́ўняга ся́бра. 2. прызнава́ць. 3. усьведамля́ць, разуме́ць: ***He recognized his duty to defend his country*** Ён усьведамля́ў абавя́зак бараніць свой край

**recoil** [rɪˈkɔɪl] – v.i. 1. адско́кваць. 2. аддава́ць (*пра стрэ́льбу*). 3. адбіва́цца: ***Revenge often recoils on the avenger*** По́мста ча́ста адбіва́ецца на мсьці́ўцу
– n. [ˈri:kɔɪl] 1. адско́к -у *m.* 2. адда́ча *f.* (*пры стрэ́ле*)

**recollect** [ˌrekəˈlekt] v.t. успаміна́ць, прыга́дваць, прыпаміна́ць

**re-collect** [ˌri:kəˈlekt] – v.t. ізно́ў сабра́ць
– v.i. апа́мятацца; схамяну́цца

**recollection** [ˌrekəˈlekʃən] n. 1. па́мяць *f.*, прыпаміна́ньне *n.*: ***within my recollection*** на маёй па́мяці. 2. успамі́н -у *m.*

**recommend** [ˌrekəˈmend] v.t. 1. рэкамэндава́ць. 2. ра́іць, ра́дзіць. 3. даруча́ць, перадава́ць

**recommendation** [ˌrekəmenˈdeɪʃən] n. 1. рэкамэнда́цыя *f.* 2. пара́да *f.*

**recompense** [ˈrekəmpens] – v.t. 1. плаці́ць. 2. аддзя́чваць. 3. апла́чваць, пакрыва́ць выда́ткі, стра́ту, кампэнсава́ць
– n. 1. апла́та, дапла́та, узнагаро́да *f.* 2. аддзя́ка *f.* 3. пакрыцьцё выда́ткаў, стра́таў, кампэнса́цыя *f.*

**reconcile** [ˈrekənsaɪl] v.i. 1. пагаджа́ць; узгадня́ць: ***It is hard to reconcile oneself to being sick*** Ця́жка пагадзі́цца з хваро́бай. 2. ула́джваць спрэ́чку, пагаджа́ць: ***They reconciled*** Яны́ пагадзі́ліся

**reconcilement** [ˌrekənˈsaɪlmənt] or **reconciliation** [ˌrekənsɪliˈeɪʃən] n. пагадне́ньне, прымірэ́ньне *n.*

**recondition** [ˌri:kənˈdɪʃən] v.t. нала́джваць, рамантава́ць: ***to recondition an old house*** адрамантава́ць стары́ дом

**reconnaissance** [rɪˈkɑ:nəzəns] n. выве́дка, разьве́дка *f.*

**reconsider** [ˌri:kənˈsɪdər] v.i. перадУ́мваць, перагляда́ць

**reconsideration** [ˌri:kənˌsɪdəˈreɪʃən] n. перагля́д, перадУ́м -у *m.*; зьме́на рашэ́ньня

**reconstitute** [ˌri:ˈkɑ:nstətu:t] v.t. адбудо́ўваць, склада́ць з ча́стак

**reconstruct** [ˌri:kənˈstrʌkt] v.t. 1. узнаўля́ць, рэканструява́ць: ***Police reconstructed the crime*** Палі́цыя ўзнаві́ла злачы́нства. 2. перабудо́ўваць; перарабля́ць. 3. аднаўля́ць. 4. склада́ць

**reconstruction** [ˌri:kənˈstrʌkʃən] n. перабудо́ва *f.*; аднаўле́ньне *n.*, рэканстру́кцыя *f.*

**record** [rɪˈkɔ:rd] – v.t. 1. запі́сваць. 2. найграва́ць, запі́сваць на кружэ́лку, сту́жку. 3. захо́ўваць назаўсёды, увекаве́чваць: ***History is recorded in books*** Гісто́рыя ўвекаве́чаная ў кні́гах
– n. [ˈrekərd] 1. за́піс -у *m.* 2. прато́кол -у *m.*; дакумэ́нт -у *m.* 3. фа́кты, да́дзеныя. 4. характары́стыка, рэпута́цыя *f.*: ***to have a good record*** мець до́брую рэпута́цыю; ***criminal record*** рэпута́цыя злачы́нца. 5. рэко́рд -у *m.*, найле́пшы вы́нік: ***to hold the record*** паставі́ць рэко́рд; ***to break the record*** пабі́ць рэко́рд
– adj. рэко́рдны, найбо́льшы, найвышэ́йшы: ***a record wheat crop*** рэко́рдны ўраджа́й пшані́цы
• ***go on record*** вы́казацца публі́чна
• ***off the record*** які не абвяшча́ецца, неафіцы́йны
• ***on record*** запіса́ны, зарэгістрава́ны: ***It was the warmest winter on record*** Гэ́тая зіма́ зарэгістрава́ная як са́мая цёплая

**recorded** [rɪˈkɔ:rdɪd] adj. 1. запіса́ны; зарэгістрава́ны. 2. найгра́ны

**recorder** [rɪˈkɔ:rdər] n. 1. пі́сар -а *m.* 2. апара́т для гуказа́пісу. 3. блёк-фле́йта *f.*

**recording** [rɪˈkɔ:rdɪŋ] n. 1. кружэ́лка *f.* 2. за́піс -у *m.*; гуказа́піс -у *m.*

**recount** [rɪˈkaʊnt] v.t. падрабя́зна раска́зваць, дава́ць справазда́чу

**re-count** [ˌri:ˈkaʊnt] – v.t. перaлі́чва́ць
– n. пералі́чваньне *n.*

**recoup** [rɪˈku:p] n. 1. вярта́ць (*згу́бленае*). 2. кампэнсава́ць, адпла́чваць

**recourse** [ˈriːkɔːrs] n. 1. вы́бар -у *m.*; магчы́масьць *f.* 2. вы́йсьце *n.*: ***Your only recourse is to seek help*** Ня ма́еш іншага вы́йсьця як прасі́ць дапамо́гі

**re-cover** [ˌriːˈkʌvər] v.t. перакрыва́ць; пакрыва́ць нано́ва

**recover** [rɪˈkʌvər] – v.t. 1. вярта́ць, атры́мваць наза́д, адваёўваць: ***He recovered his losses*** Ён вярну́ў стра́чанае. 2. спаганя́ць; сы́скваць: ***to recover lost time*** нагна́ць стра́чаны час. 3. перапрацо́ўваць (*адкі́ды*)
– v.i. ачу́ньваць, адыхо́дзіць, ачува́цца; выздараўля́ць: ***The girl recovered her composure*** Дзяўчы́на ачуня́ла; ***He has recovered from illness*** Ён вы́здаравеў

**recovery** [rɪˈkʌvəri] n. 1. папра́ўка *f.*, выздараўле́ньне, пале́пшаньне *n.* 2. спагна́ньне, сыска́ньне *n.* 3. ачу́ньваньне *n.*

**re-create** [ˌriːkriˈeɪt] v.t. ствара́ць нано́ва, узнаўля́ць

**recreation** [ˌrekriˈeɪʃən] n. гуля́ньне *n.*, заба́ва *f.*; адпачы́н|ак -ку *m.*: ***She plays piano for recreation*** Яна́ йгра́е на піяні́на для адпачы́нку

**re-creation** [ˌriːkriˈeɪʃən] n. 1. ствар́эньне нано́ва. 2. но́вы твор

**recreation room** пако́й для гу́льняў

**recriminate** [rɪˈkrɪmɪneɪt] v.t. вінава́ціць у адка́з на абвінава́чаньне

**recrimination** [rɪˌkrɪmɪˈneɪʃən] n. контрабвінава́чаньне, узае́мнае абвінава́чаньне

**recruit** [rɪˈkruːt] – n. 1. навабра́н|ец -ца *m.*, р́экрут -а *m.* 2. но́вы супрацо́ўнік, навічо́|к -ка́ *m.*
– v.t. вэрбава́ць; набіра́ць

**recruitment** [rɪˈkruːtmənt] n. набо́р, вэрбава́ньне *n.*

**rectangle** [ˈrektæŋgəl] n. прастаку́тнік -а *m.*

**rectangular** [rekˈtæŋgjələr] adj. прастаку́тны

**rectification** [ˌrektɪfɪˈkeɪʃən] n. 1. выпраўле́ньне *n.* 2. Chem. ачышч́эньне *n.*, рэктыфіка́цыя *f.* 3. Electr. вы́прастаньне, выпрамле́ньне *n.*

**rectifier** [ˈrektɪfaɪər] n. 1. Chem. ачышча́льнік, рэктыфіка́тар -у *m.* 3. Electr. выпраста́льнік -а *m.* (*то́ку*)

**rectify** [ˈrektɪfaɪ] v.t. **-fied, -fying** 1. выпраўля́ць: ***We are trying to rectify the situation*** Мы спрабу́ем вы́правіць сытуа́цыю. 2. Electr. выпро́стваць. 3. Chem. ачышча́ць

**rectitude** [ˈrektɪtuːd] n. сумле́ннасьць *f.*; шчы́расьць *f.*, высо́кая мара́льнасьць

**rector** [ˈrektər] n. 1. р́эктар -а *m.*; про́башч -а *m.*, настая́цель пара́фіі *або́* сабо́ра. 2. кіраўні́к -а́, дыр́эктар -а *m.*

**rectum** [ˈrektəm] n. про́стая кі́шка

**recumbent** [rɪˈkʌmbənt] adj. 1. які́ ляжы́ць, адхі́лены наза́д. 2. Figur. бязьдзе́йны, пасі́ўны

**recuperate** [rɪˈkjuːpəreɪt] v.i. 1. папраўля́цца, выздараўля́ць; набіра́цца сіл. 2. ачу́ньваць. 3. вярта́ць (*стра́ты*)

**recuperation** [rɪˌkjuːpəˈreɪʃən] n. 1. выздараўле́ньне *n.* 2. аднаўле́ньне сіл

**recur** [rɪˈkɜːr] v.i. **-curred, -curring** 1. паўтара́цца, вярта́цца пэрыяды́чна: ***Leap year recurs every four years*** Высако́сны год паўтара́ецца ко́жныя чаты́ры гады́. 2. зьвярта́цца

**recurrence** [rɪˈkɜːrəns] n. паўтар́эньне *n.*, пэрыяды́чны заваро́т

**recurrent** [rɪˈkɜːrənt] adj. які́ вярта́ецца, паўтара́ецца; пэрыяды́чны

**recurring decimal** [rɪˈkɜːrɪŋ] n. пэрыяды́чны дзесятко́вы дроб

**recycle** [rɪˈsaɪkəl] v.t. перапрацо́ўваць; ужыва́ць ізно́ў

**red** [red] – adj. чырво́ны: ***to become red in the face*** пачырване́ць; ***red cheeks*** пунсо́выя шчо́кі, чырванашчо́кі; ***red with anger*** пачырване́ць ад зло́сьці
– n. чырво́ны ко́лер
• ***in the red*** у даўгу́; у стра́це
• ***red alert*** знак небясьпе́кі
• ***red-blooded*** паўнакро́ўны, энэргі́чны

**redact** [rɪˈdækt] v.t. рэдагава́ць, рыхтава́ць да дру́ку

**redaction** [rɪˈdækʃən] n. рэдагава́ньне *n.*, падрыхто́ўка да дру́ку

**Red Army** Чырво́ная Армія
**Red Cross** Чырво́ны Крыж
**redden** [ˈredən] – v.t. фарбава́ць у чырво́ны ко́лер
– v.i. ірдзе́ць, чырване́ць, пунсаве́ць
**reddish** [ˈredɪʃ] adj. чырванава́ты
**redeem** [rɪˈdi:m] v.t. 1. выкупля́ць: ***The slaves were redeemed*** Рабо́ў вы́купілі. 2. спло́чваць (*доўг*). 3. спаўня́ць, выко́нваць: ***to redeem a promise*** спо́ўніць абяца́ньне. 4. вызваля́ць, вырато́ўваць; збаўля́ць
**redeemer** [rɪˈdi:mər] n. 1. зба́ўц|а -ы *m.* 2. ***Redeemer*** Ісус Хрысто́с, Спас -а *m.*
**redemption** [rɪˈdempʃən] n. 1. вы́куп -у *m.*, спла́та *f.* 2. адкупле́ньне, збаўле́ньне *n.*
**redhead** [ˈredhed] n. 1. ры́ж|ы -ага *m.*, ры́жая *f.* 2. род ка́чкі з чырво́най гаяво́й
**redheaded** [ˈredhedɪd] adj. ры́жы, рыжавало́сы
**red-hot** [ˌredˈhɑ:t] adj. напа́лены дачы́рвана
**red light,** Informal чырво́нае сьвятло́ (*сыгна́л перасьцяро́гі*)
**redness** [ˈrednəs] n. чы́рвань *f.*
**redo** [ˌri:ˈdu:] v.t. перарабля́ць
**redolent** [ˈredələnt] adj. 1. духмя́ны; з мо́цным па́хам. 2. Figur. які́ нага́двае, падка́звае (*ду́мкі, пачу́цьці*)
**redoubtable** [rɪˈdaʊtəbəl] adj. 1. застрашальны, пагража́льны, жахлі́вы. 2. які́ выклікае пава́гу
**Red Riding Hood** Чырво́ная Ша́пачка
**redskin** [ˈredskɪn] n., Sl. чырванаску́р|ы -ага *m.* (*паўно́чнаамэрыка́нскі індыя́нін*)
**red tape** бюракраты́зм -у *m.*, канцыля́ршчына *f.*, папяро́вая цяганіна
**reduce** [rɪˈdu:s] v.t. зьніжа́ць; зьмянша́ць: ***to reduce expenses*** зьме́ншыць расхо́ды; ***to reduce one's weight*** зьме́ншыць сваю́ вагу́, схудне́ць. 2. разво́дзіць, рабі́ць слабе́йшым. 3. паніжа́ць, даво́дзіць: ***to reduce to begging*** даве́сьці да жабра́цтва. 4. Math. скарача́ць
• ***reduce speed*** спаво́ліць ху́ткасьць
**reduction** [rɪˈdʌkʃən] n. 1. зьніжэ́ньне, зьме́ншаньне *n.* 2. зьні́жка *f.*: ***the reduction in cost was $5*** Цана́ была́ зьні́жаная на пяць даля́раў. 3. скарачэ́ньне *n.*: ***reduction of armaments*** скарачэ́ньне ўзбрае́ньняў
**redundant** [rɪˈdʌndənt] adj. 1. лі́шні; залі́шні, празьме́рны. 2. шматсло́ўны; таўталягі́чны
**reed** [ri:d] – n. 1. трысьцё *n.*, трысьн|ёг -ягу́ *m.* 2. бёрд|а -а *n.* (*у кро́снах*). 3. язычо́к -ка́ *m.* (*у музы́чных інструмэ́нтах*)
– adj. 1. трысьцёвы. 2. язычко́вы
• ***reeds,*** pl. трысьцёвы за́расьнік
**reed instrument** язычко́вы музы́чны інструмэ́нт
**reef** [ri:f] n. рыф -а *m.*, падво́дная скала́
**reek** [ri:k] – n. смуро́д -у *m.*
– v.i. сьмярдзе́ць; патыха́ць: ***The room reeked of tobacco*** Пако́й сьмярдзе́ў тытунём
**reel I** [ri:l] – n. 1. шпу́ля, шпу́лька *f.* 2. шпу́ля для кінасту́жкі. 3. матаві́ла -а *n.* (*для намо́тваньня ні́так або́ дро́ту*)
– v.t. намо́тваць на шпу́лю
**reel II** [ri:l] v.i. 1. калыхну́цца, затрэ́сьціся ад уда́ру. 2. хіста́цца. 3. кружы́цца, круці́цца: ***His head was reeling after a polka*** Яму́ закруці́лася галава́ пасьля́ по́лькі
**re-elect** [ˌri:ɪˈlekt] v.t. перавыбіра́ць
**re-establish** or **re-establish** [ˌri:ɪˈstæblɪʃ] v.t. усталёўваць нано́ва, аднаўля́ць; адбудо́ўваць
**reexamination** [ˌri:ɪˌgzæmɪˈneɪʃən] n. пераэкзамэно́ўка *f.*; перагля́д -у *m.*
**refer** [rɪˈfɜ:r] – v.t. **(-rr-)** 1. адсыла́ць. 2. накіро́ўваць, пасыла́ць: ***We referred him to the boss*** Мы скірава́лі яго́ да кіраўніка́. 3. перадава́ць (*напр. спрэ́чку судзьдзі́*)
– v.i. 1. даты́чыць: ***His words referred to me only*** Яго́ныя сло́вы даты́чылі то́лькі мяне́. 2. зьвярта́цца: ***He referred to me for help*** Ён зьвярну́ўся да мяне́ па дапамо́гу

***• refer to a dictionary*** зьвяртáцца да слóўніка, карыстáцца слóўнікам

**referee** [ˌrefəˈriː] n. 1. Sport судзьдзі|я -í *m. & f.* 2. арбíт|ар -ра *m.*

**reference** [ˈrefərəns] – n. 1. спасылáньне *n.*, спасы́лка *f.*; знóска *f.* 2. давéднік -а *m.* 3. давéдка *f.*; рэкамэндáцыя *f.*

– adj. давéдачны: ***reference book*** давéднік; ***a reference library*** давéдачная біблiятэ́ка

***• in*** or ***with reference to*** даты́чна *чагó*; што даты́чыць *чагó*; у сýвязі з *чым*

***• make reference to*** згáдваць, спасылáцца

**referral** [rɪˈfɜːrəl] n. накіравáньне *n.*

**refill** [ˌriːˈfɪl] v.t. напаўня́ць ізнóў

**refine** [rɪˈfaɪn] – v.t. 1. ачышчáць, рафінавáць. 2. рабíць далікатнéйшым, прыгажэ́йшым; удасканáльваць

– v.i. далікатнéць; прыгажэ́ць

**refined** [rɪˈfaɪnd] adj. 1. ачы́шчаны, рафінавáны: ***refined sugar*** рафінавáны цýкар. 2. удасканáлены. 3. з далікáтнымі манéрамі, гýстам; далікáтны; дóбра ўзгадавáны: ***refined manners*** далікáтныя манéры

**refinement** [rɪˈfaɪnmənt] n. 1. удасканáленьне *n.* 2. далікáтнасьць, элегáнтнасьць, рафінавáнасьць *f.* (*гýсту, манéраў, пачýцьцяў, мóвы*). 3. ачышчáньне, рафінавáньне *n.* 4. тóнкае разрóзьніваньне

**refinery** [rɪˈfaɪnəri] n., pl. **-eries** ачышчáльны завóд: ***oil refinery*** нафтаперагóнны завóд

**refit** [ˌriːˈfɪt] – v.t. **(-tt-)** рэмантавáць, аднаўля́ць, налáджваць: ***to refit an old ship*** налáдзіць стары́ карабéль

– n. [ˈriːfɪt] рыхтавáньне, налáджваньне *n.*

**reflect** [rɪˈflekt] – v.t. 1. адбівáць (*сьвятлó, цяплó, гýкі*). 2. адлюстрóўваць, пакáзваць. 3. выкáзваць: ***The newspaper reflected the owner's opinions*** Газэ́та выкáзвала пагля́ды ўлáсьніка. 4. дýмаць

– v.t. 1. адбівáцца (*пра сьвятлó, цяплó, гýкі*). 2. адлюстрóўвацца. 3. задýмвацца

**reflection** [rɪˈflekʃən] n. 1. адбíцьцё *n.* (*сьвятлá, гýку*). 2. адлюстравáньне *n.*, адбíт|ак -ку *m.*, вóбраз -у *m.*: ***You can see your reflection in the mirror*** У лю́стры вы бáчыце свóй адбíтак. 3. дýманьне, мы́сьленьне, развaжáньне *n.*: ***On reflection, I decided that the plan was too dangerous*** Дóбра падýмаўшы, я пабáчыў, што плян занáдта небясьпéчны

**reflective** [rɪˈflektɪv] adj. 1. які́ адбівáе. 2. задумéнны, задýмлівы: ***a reflective look*** задýмлівы пóзірк

**reflex** [ˈriːfleks] – adj. 1. міжвóльны, мімавóльны, машынáльны, несьвядóмы. 2. адхíлены ўзáд. 3. Geom. ***a reflex angle*** тупы́ кут

– n. 1. рэфлéкс -у *m.*, міжвóльная рэáкцыя: ***Sneezing and shivering are reflexes*** Чы́ханьне й дры́жыкі — гэ́та рэфлéксы. 2. адбíцьцё *n.*, вóбраз -у *m.*

**reflexive** [rɪˈfleksɪv] adj., Gram. зварóтны (*дзеяслóў, займéньнік*)

**reform** [rɪˈfɔːrm] – v.t. 1. паляпшáць; перавыхóўваць. 2. правóдзіць рэфóрму, рэфармавáць

– n. рэфóрма *f.*, палéпшаньне *n.*

**re-form** [ˌriːˈfɔːrm] – v.t. перарабля́ць, перафармóўваць

– v.i. перарабля́цца, зьмяня́цца

**reformation** [ˌrefərˈmeɪʃən] n. рэфармавáньне, палéпшаньне *n.*

**Reformation** Рэфармáцыя *f.*

**reformatory** [rɪˈfɔːrmətɔːri] – adj. папрáўчы

– n., pl. **-ries** папрáўчы дом

**reformer** [rɪˈfɔːrmər] n. рэфармáтар -а *m.*

**reform school** папрáўчая шкóла

**refract** [rɪˈfrækt] v.t., Phys. праламля́ць (*прамéнь*)

**refraction** [rɪˈfrækʃən] n. праламлéньне *n.*, рэфрáкцыя *f.*

**refrain I** [rɪˈfreɪn] v.i. стры́мвацца: ***I refrained from comment*** Я ўстрымáўся ад заўвáгі; ***to refrain from smoking*** стрымáцца ад курэ́ньня

**refrain II** [rɪˈfreɪn] n. рэфрэ́н -у *m.*; пры́пéў -ву *m.*

**refresh** [rɪˈfreʃ] – v.t. асьвяжа́ць; аднаўля́ць: ***Let me refresh your memory*** Дазво́льце мне нагада́ць вам
– v.i. асьвяжа́цца; падсілко́ўвацца

**refreshing** [rɪˈfreʃɪŋ] adj. 1. асьвяжа́льны. 2. прые́мны: ***Her candor was refreshing*** Яе́ шчы́расьць была́ прые́мная

**refreshment** [rɪˈfreʃmənt] n. падмацу́н|ак -ку *m.*
• ***refreshments*** дро́бны пачасту́нак, асьвяжа́льныя напо́і

**refrigerate** [rɪˈfrɪdʒəreɪt] v.t. ахало́джваць

**refrigeration** [rɪˌfrɪdʒəˈreɪʃən] n. ахало́джваньне *n.*; трыма́ньне ў хо́ладзе

**refrigerator** [rɪˈfrɪdʒəreɪtər] n. халадзі́льнік -а *m.*, лядо́ўня *f.*

**refuel** [ˌriːˈfjʊːəl] v.t. запраўля́ць (*машы́ну*); запраўля́ць па́лівам

**refuge** [ˈrefjuːdʒ] n. 1. прыста́нішча *n.*, прыста́н|ак -ку, прыту́л|ак -ку *m.* 2. схо́вішча *n.*: ***He sought refuge from the rain*** Ён шука́ў схо́вішча ад дажджу́

**refugee** [ˌrefjuˈdʒiː] n. уцяка́ч уцекача́ *m.*, уцяка́чка *f.*

**refund** [rɪˈfʌnd] – v.t. варо́чаць, вярта́ць (*гро́шы*)
– n. [ˈriːfʌnd] 1. зваро́т гро́шай. 2. зьве́рнутыя гро́шы

**refurbish** [riːˈfɜːrbɪʃ] v.t. рэдэкарава́ць, аднаўля́ць

**refusal** [rɪˈfjuːzəl] n. адмо́ва *f.*

**refuse I** [rɪˈfjuːz] – v.t. адмаўля́ць; не прыма́ць: ***to refuse an offer*** не прыня́ць прапано́вы; ***to refuse admittance*** не дапусьці́ць, не прыня́ць
– v.i. адмаўля́цца: ***to refuse to discuss the question*** адмо́віцца абмярко́ўваць пыта́ньне; ***She is free to refuse*** Яна́ мо́жа адмо́віцца

**refuse II** [ˈrefjuːs] n. сьмяцьцё *n.*, адкі́ды

**refutable** [rɪˈfjuːtəbəl] adj. які́ мо́жна аспрэ́чыць, аспрэ́чны

**refutation** [ˌrefjuˈteɪʃən] n. аспрэ́чваньне *n.*

**refute** [rɪˈfjuːt] v.t. аспрэ́чваць

**regain** [rɪˈgeɪn] v.t. ізно́ў здабы́ць: ***to regain independence*** аднаві́ць незале́жнасьць; ***to regain health*** вы́здаравець; ***She never regained consciousness*** Яна́ не ачуня́ла

**regal** [ˈriːgəl] adj. каралеўскі, ца́рскі

**regard** [rɪˈgɑːrd] – v.t. 1. уважа́ць: ***He is regarded as the best doctor in town*** Яго́ ўважа́юць найле́пшым ле́карам у го́радзе. 2. глядзе́ць на *каго́-што*, прыгляда́цца: ***He regarded me sternly*** Ён суро́ва прыгляда́ўся да мяне́. 3. лічы́ць, лічы́цца з *кім-чым*; шанава́ць: ***to regard someone's wishes*** лічы́цца з чыі́мі-не́будзь жада́ньнямі; ***I regard him highly*** Я ве́льмі яго́ шану́ю. 4. турбава́цца пра *каго́-што*, зварача́ць увагу на *каго́-што*: ***No one regarded her advice*** Ніхто́ не зьвярну́ў увагу на яе́ пара́ду
– n. 1. паша́на *f.*, прызна́ньне *n.* 2. по́гляд, пагля́д -у *m.* 3. ува́га *f.*: ***He acted without regard to others*** Ён дзе́йнічаў, не зьвярта́ючы ўва́гу на і́ншых
• ***as regards*** што да, што датычыць *каго́-чаго́*: ***As regards money, I have enough*** Што даты́чыць гро́шай, дык я ма́ю до́сыць
• ***in*** or ***with regard*** у дачыне́ньні да *каго́-чаго́*, што ты́чыцца *каго́-чаго́*
• ***regards*** прывіта́ньні, пажада́ньні: ***he sends his regards*** ён перадае́ прывіта́ньні; ***with best regards*** з найле́пшымі пажада́ньнямі
• ***without regard*** не зважа́ючы на *каго́-што*: ***without regard to public opinion*** не зважа́ючы на грама́дзкую ду́мку

**regarding** [rɪˈgɑːrdɪŋ] prep. нако́нт *каго́-чаго́*, пра *каго́-што*: ***a prophecy regarding the future*** прадказа́ньні нако́нт бу́дучыні

**regardless** [rɪˈgɑːrdləs] – adj. (of) які́ не зважа́е на і́ншых, безува́жлівы
– adv. безува́жліва; ня гле́дзячы на *каго́-што*

**regatta** [rɪˈgætə] n. рэга́та *f.*

**regency** [ˈriːdʒənsi] n., pl. **-cies** рэ́генцтва *n.*; рэ́генты *pl.*

**regenerate** [rɪˈdʒenərət] – adj. адро́джаны

– v. [rɪˈdʒenəreɪt] 1. адраджáць. 2. паляпшáць марáльны стан. 3. адрастáць
**regeneration** [rɪˌdʒenəˈreɪʃən] n. 1. адраджэ́ньне (*марáльнае ці духóвае*). 2. рэгенэрáцыя *f.*
**regent** [ˈri:dʒənt] n. 1. рэ́гент -а *m.*, рэ́гентка *f.* 2. член унівэрсытэ́цкае рáды
**regime** [rəˈʒi:m] n. рэжы́м -у *m.*
**regimen** [ˈredʒɪmən] n. парáд|ак -ку *m.*, рэжы́м -у *m.*; дыéта *f.*
**regiment** [ˈredʒɪmənt] – n. 1. полк палкá *m.*, Brit. батальëн -а *m.* 2. вялíкая кóлькасьць
– v.t. 1. арганізавáць палкí; дзялíць на арганізавáныя грýпы. 2. Figur. рэглямэнтавáць
**regimental** [ˌredʒɪˈmæntəl] adj. палкавы́
**region** [ˈri:dʒən] n. 1. мéсца *n.*, мясцóвасьць *f.*; абшáр, раëн, рэгіëн -у *m.* 2. зóна, паласá *f.*: ***the region of the equator*** экватэрыя́льная зóна. 3. чáстка цéла: ***the abdominal region*** брýшная пóласьць. 4. галінá, сфэ́ра *f.*: ***the region of imagination*** сфэ́ра фантáзіі
**regional** [ˈri:dʒənəl] adj. мясцóвы; рэгіянáльны; раëнны
**register** [ˈredʒɪstər] – n. 1. зáпіс, улíк, сьпіс -у, рэéст|ар -ру *m.* 2. кніга зáпісаў. 3. Mus. рэгíст|ар -ру *m.*
– v. запíсваць, браць на ўлíк; рэгістравáць: ***to get registered*** запíсвацца, прыпíсвацца, рэгістравáцца
**registered letter** заказны́ ліст
**registrar** [ˈredʒəstrɑ:r] n. 1. рэгістратýра *f.* 2. працаўнíк рэгістратýры, рэгíстрáтар -а *m.*
**registration** [ˌredʒɪstˈreɪʃən] n. 1. рэгістрáцыя *f.* 2. улíк, зáпіс -у *m.*
**registry** [ˈredʒɪstri] n., pl. **-tries** 1. рэгістратýра *f.*, рэгістрацы́йны аддзéл. 2. кніга зáпісаў, рэéст|ар -ру *m.*
**regress** [rɪˈgres] – v.i. 1. рýхацца назáд. 2. занепадáць, ісьцí да ўпáдку
– n. [ˈri:gres] 1. рух назáд, рэгрэ́с -у *m.* 2. заняпáд -у *m.*
**regret** [rɪˈgret] – n. шкадавáньне *n.*; жал|ь -ю *m.*, жальбá *f.*; бедавáньне *n.*: ***to my regret*** на жáль
– v.i. 1. шкадавáць. 2. жальбавáць, адчувáць жаль; кáяцца
• ***regrets*** вéтлівая адмóва
**regretful** [rɪˈgretfəl] adj. пóўны жáлю, шкадóбы, засмучóны
**regrettable** [rɪˈgretəbəl] adj. вáрты жáлю: ***it is regrettable that*** шкада, што
**regular** [ˈregjələr] adj. 1. звычáйны, нармáльны; згóдны з прáвілам: ***regular features*** прáвільныя ры́сы твáру. 2. рэгуля́рны, стáлы, сыстэматы́чны: ***regular attendance*** рэгуля́рнае навéдваньне; ***a regular customer*** стáлы пакýпнік; Gram. прáвільны (*дзеясл*óў)
**regularity** [ˌregjəˈlærəti] n. рэгуля́рнасьць, прáвільнасьць *f.*, парáд|ак -ку *m.*, сыстэматы́чнасьць *f.*
**regulate** [ˈregjəleɪt] v.t. рэгулявáць: ***This instrument regulates the temperature of the room*** Гэ́ты інструмэ́нт рэгулюе тэмпэратýру ў пакóі. 2. налáджваць, настаўля́ць
**regulation** [ˌregjəˈleɪʃən] – n. 1. рэгулявáньне *n.*, рэгуля́цыя *f.* 2. прáвіла *n.*, закóн, статýт -у *m.*: ***traffic regulations*** прáвілы дарóжнага рýху
– adj. усталявáны, вымагáны закóнам *або́* прáвіламі, прадпісáны: ***Soldiers wear a regulation uniform*** Жаўнéры нóсяць прадпісáную ўніфóрму
**rehabilitate** [ˌri:əˈbɪlɪteɪt] v.t. 1. вяртáць ранéйшыя правы́, станóвішча, рэпутáцыю, рэабілітавáць. 2. перавыхóўваць. 3. аднаўля́ць
**rehabilitation** [ˌri:əˌbɪlɪˈteɪʃən] n. 1. рэабілітáцыя *f.* 2. перавыхавáньне *n.*
**rehearsal** [rɪˈhɜ:rsəl] n. рэпэты́цыя *f.*: ***dress rehearsal*** генэрáльная рэпэты́цыя
**rehearse** [rɪˈhɜ:rs] – v.i. практыкавáцца
– v.t. 1. рабíць рэпэты́цыю. 2. паўтарáць
**reheat** [ˌrɪˈhi:t] v. падагравáць
**reign** [reɪn] – n. уладáрства, панавáньне *n.*: ***a reign of law and order*** панавáньне закóну й парáдку; улáда *f.*
– v.i. уладáрыць, панавáць: ***A king reigns over his kingdom*** Карóль

уладáрыць у сваíм каралéўстве; ***On a still night silence reigns*** У спакóйную ноч панýе цішыня́

**reimburse** [ˌri:ɪmˈbɜ:rs] v.t. вярнýць расхóды, выдáткі: ***to reimburse travelling expenses*** вярнýць расхóды за падарóжжа

**rein** [reɪn] – n. 1. лéйчына *f.* 2. ***reins,*** pl. лéйцы *pl.*

– v.t. кіравáць лéйцамі

• ***give rein to*** давáць свабóду дзéяньня *абó* рýху

• ***keep a tight rein on*** трымáць пад стрóгім наглядам *абó* кантрóлем

**reincarnate** [ˌri:ɪnˈkɑ:rneɪt] v.t. пераўвасабля́ць, перараджáць

**reincarnation** [ˌri:ˌɪnkɑ:rˈneɪʃən] n. пераўвасаблéньне *n.*, рэінкарнáцыя *f.*

**reindeer** [ˈreɪndɪr] n., pl. **-deer** or **deers** алéн|ь -я *m.*

**reinforce** [ˌri:ɪnˈfɔ:rs] v.t. падмацóўваць; узмацня́ць, умацóўваць: ***to reinforce a wall*** умацавáць сьцянý

**reinforced concrete** жалезабэтóн -у *m.*

**reinforcement** [ˌri:ɪnˈfɔ:rsmənt] n. узмацнéньне, падмацавáньне *n.*, дапамóга *f.*

• ***reinforcements*** pl. папаўнéньне, узмацнéньне *n.*

**reinstate** [ˌri:ɪnˈsteɪt] v.t. вяртáць на ранéйшае станóвішча

**reject** [rɪˈdʒekt] – v.t. адкідáць; адхіля́ць, адмаўля́цца прыня́ць: ***He rejected our help*** Ён адмóвіўся прыня́ць нáшую дапамóгу

– n. [ˈri:dʒekt] адкíнутая асóба *абó* рэч

**rejection** [rɪˈdʒekʃən] n. 1. адмóва *f.*; непрымáньне, адхілéньне *n.* 2. нéшта адкíнутае, забракавáнае

**rejoice** [rɪˈdʒɔɪs] – v.i. рáдавацца, цéшыцца

– v.t. рáдаваць; цéшыць, весялíць

**rejoicing** [rɪˈdʒɔɪsɪŋ] n. рáдасьць, весялóсьць *f.*

**rejoin** [ˌri:ˈdʒɔɪn] – v.t. злучáць, спалучáць нанóва

– v.i. ізнóў далучáцца, злучáцца

**rejuvenate** [rɪˈdʒu:vəneɪt] v.t. амалóджваць

**relapse** [rɪˈlæps] – v.i. 1. ізнóў упадáць у які-н. стан: ***She relapsed into silence*** Янá ізнóў змóўкла. 2. захварэ́ць паўтóрна: ***His health relapsed*** Ён ізнóў захварэ́ў

– n. паўтарэ́ньне *n.* (*хварóбы*), рэцыды́|ў -ву *m.*

**relate** [rɪˈleɪt] – v.t. 1. раскáзваць, апавядáць

– v.i. 1. даты́чыцца. 2. мець дачынéньне, сыхóдзіцца: ***He relates well to people*** Ён дóбра сыхóдзіцца зь людзьмí

**related** [rɪˈleɪtɪd] adj. 1. зьвязáны з *чым-н.*, даты́чны. 2. рóдны, сваяцкі: ***We are closely related*** Мы блíзкія сваякí

**relation** [rɪˈleɪʃən] n. 1. сýвязь *f.*, дачынéньне *n.*; аднóсіны *pl.*: ***The relation of mother and child is the closest in the world*** Сýвязь паміж мáці й дзíцем найцясьнéйшая ў сьвéце. 2. сваяк -á *m.*, сваячка *f.*; радня́ *f.* 3. раскáз, апóвед -у *m.*, апавядáньне *n.*

• ***relations*** сýвязі, знóсіны, дачынéньні *pl.*: ***international relations*** міжнарóдныя дачынéньні

**relationship** [rɪˈleɪʃənʃɪp] n. 1. дачынéньне *n.*, сýвязь *f.* 2. сваяцтва *n.*, рóднасьць *f.* 3. узаéмааднóсіны, узаéмныя дачынéньні, узаéмадачынéньні

**relative** [ˈrelətɪv] – n. 1. сваяк -á *m.*, сваячка *f.*; радня́ *f.* 2. Gram. аднóсны займéньнік.

– adj. аднóсны, параўнáльны

• ***relative to*** а) пра *кагó-што*, у спрáве *кагó-чагó.* б) прапарцы́йна да *кагó-чагó*, параўнáльна з *кім-чым*: ***He is strong relative to his size*** Ён дýжы як на ягóны рост

**relativity** [ˌreləˈtɪvəti] n. аднóснасьць *f.*: ***theory of relativity*** тэóрыя аднóснасьці

**relax** [rɪˈlæks] – v.t. 1. расслабля́ць: ***to relax the muscles*** адпрýжыць мýскулы. 2. папушчáць, паслабля́ць: ***Discipline is relaxed on the last day of school*** Дысцыпліна паслáбленая ў апóшні шкóльны дзень. 3. зьмян-

шáць, аслабля́ць: ***Don't relax your efforts*** Не зьмяншáй намагáньні; ***to relax tension*** аслáбіць напру́жанасьць
– v.i. 1. расслабля́цца, паслабля́цца; слабéць, лагаднéць. 2. адпачывáць

**relaxation** [ˌri:læk'seɪʃən] n. 1. адпру́жанасьць, расслáбленасьць *f.* 2. паслаблéньне *n.* 3. адпачы́н|ак -ку *m.*, гуля́ньне *n.*: ***Walking and reading were the only relaxation*** Прахóдкі ды чытáньне былí адзíным адпачы́нкам

**relay** ['ri:leɪ] – n. 1. зьмéна *f.* 2. Sport эстафэ́та *f.* 3. Electr. рэлé *n., indecl.* пераключáльнік -а *m.* 4. Radio рэтрансьля́цыя *f.*
– v.t. 1. перадавáць. 2. рэтрансьлявáць

**relay race** эстафэ́та *f.*

**release** [rɪ'li:s] – v.t. 1. вызваля́ць; выпушчáць (*з турмы́*). 2. адпускáць. 3. аддавáць, перадавáць: ***I released my right to the property*** Я адмóвіўся ад прáва на ўлáснасьць. 4. выдавáць (*кнíгу, кружэ́лку*)
– n. 1. вызвалéньне *n.* 2. адмаўлéньне ад прáва. 3. дакумэ́нт аб вызвалéньні. 4. дазвóл -у *m.*
• ***press release*** паведамлéньне для прэ́сы

**re-lease** [ˌri:'li:s] v.t. ізнóў здаць у арэ́нду

**relent** [rɪ'lent] v.i. лагаднéць, мякчэ́ць; рабíцца больш чу́лым і спагáдлівым

**relentless** [rɪ'lentləs] adj. 1. бязьлíтасны, няўмóльны. 2. няспы́нны, безупы́нны, неадсту́пны: ***The storm raged with relentless fury*** Навальнíца бушавáла зь няспы́ннай лю́тасьцю

**relevance** ['reləvəns] or **relevancy** ['reləvənsi] n. дарэ́чнасьць, адпавéднасьць, вáжнасьць *f.*

**relevant** ['reləvənt] adj. дарэ́чны, адпавéдны

**reliability** [rɪˌlaɪə'bɪləti] n. надзéйнасьць; верагóднасьць, пэ́ўнасьць *f.*

**reliable** [rɪ'laɪəbəl] adj. надзéйны, вáрты давéру, пэ́ўны: ***reliable source of news*** надзéйная крынíца вéстак

**reliance** [rɪ'laɪəns] n. 1. давéр -у *m.* 2. спадзявáньне *n.*: ***I put great reliance on you*** Я мóцна спадзяю́ся на цябé. 3. надзéя, апóра *f.*

**relic** ['relɪk] n. 1. пáмятка старадáўнасьці. 2. рэлíквія *f.*
• ***relics,*** pl. астáнкі, руíны *pl.*

**relief** [rɪ'li:f] n. 1. палягчэ́ньне, палёгка *f.*, вызвалéньне (*ад ця́жкасьцяў, бóлю*). 2. дапамóга *f.* 3. дапамóга бéдным: ***to put on public relief*** прызнáчыць сацыя́льную дапамóгу. 4. зьмéна *f.*: ***The sentry was waiting for his relief*** Вартаўнíк чакáў зьмéны. 5. рэльéф -у *m.*
• ***in relief*** рэльéфна, выпу́кла

**relief map** рэльéфная кáрта

**relieve** [rɪ'li:v] v.t. 1. палягчáць, аблягчáць: ***These tablets will relieve a headache*** Гэ́тыя таблéткі аблéгчаць галаўны́ боль. 2. вызваля́ць, выручáць. 3. зьмяня́ць (*на прáцы, на вáрце*)

**religion** [rɪ'lɪdʒən] n. 1. рэлíгія *f.* 2. веравызнáньне *n.*

**religiosity** [rɪˌlɪdʒi'ɑ:səti] n. рэлігíйнасьць *f.*

**religious** [rɪ'lɪdʒəs] adj. 1. рэлігíйны; набóжны. 2. манáскі. 3. Figur. вéльмі старáнны

**relinquish** [rɪ'lɪŋkwɪʃ] v.t. 1. пакідáць, адмаўля́цца ад *чагó*, саступáць, перадавáць *што камý*. 2. ***She has relinquished all hope*** Янá стрáціла ўсю надзéю

**relish** ['relɪʃ] – n. 1. прыéмны, дóбры смак. 2. прысмáк -у *m.*: ***Olives and pickles are relishes*** Алíўкі й сóленыя гуркí — гэ́та прысмáкі. 3. драбóк чагó-н. 4. апэты́т -у *m.*, прыéмнасьць *f.*: ***to eat with a great relish*** éсьці зь вялíкім апэты́там; ***to have no relish for*** не лю́біць *чагó*
– v.t. смакавáць, лю́біць, мець асалóду з *чагó*: ***A cat relishes cream*** Кот лю́біць сьмятáну

**reluctance** [rɪ'lʌktəns] n. 1. неахвóта *f.*, нежадáньне *n.*; непрыхíльнасьць *f.* 2. мару́джаньне *n.*

**reluctant** [rɪ'lʌktənt] adj. неахвóчы, мару́дны (*з-за неахвóты*)

**reluctantly** [rɪˈlʌktəntli] adv. неахво́ча

**rely** [rɪˈlaɪ] v.i. 1. спадзява́цца; лічы́ць, разьлі́чваць на *каго́-што*: ***Rely on your own efforts*** Спадзява́йся то́лькі на сваé стара́ньні. 2. давяра́цца

**remain** [rɪˈmeɪn] – v.i. 1. застава́цца; праб́ыць: ***We remained at the lake till September*** Мы прабылі́ на во́зеры да ве́расьня; ***Let it remain as it is*** Хай гэ́та застае́цца, як ёсьць. 2. захо́ўвацца: ***to remain the same*** захо́ўвацца такі́м са́мым

– n. ***remains,*** pl. 1. рэ́шта *f.*, аста́т|ак -ку *m.* 2. тво́ры не надрукава́ныя за жыцьця́ а́ўтара. 3. сьляды́ міну́лага: ***the remains of an ancient civilization*** рэ́шткі старажы́тнае цывіліза́цыі. 4. аста́нкі, парэ́шткі *pl.* (*мёртвае це́ла*)

**remainder** [rɪˈmeɪndər] n. 1. рэ́шта *чаго́-н.*: ***the remainder of the afternoon*** рэ́шта ча́су папаўдні́. 2. рэ́шта пры адыма́ньні: ***If you take 2 from 9, the remainder is 7*** Калі адымем два ад дзевяцёх, застане́цца сем. 3. нераспрада́ныя рэ́шткі накла́ду кні́гі

**remark** [rɪˈmɑːrk] – v.t. 1. каза́ць, зазнача́ць; выќазвацца. 2. заўважа́ць; назіра́ць

– n. 1. заўва́га *f.*: ***to make no remark*** нічо́га не сказа́ць. 2. заўважа́ньне, назіра́ньне *n.*

**remarkable** [rɪˈmɑːrkəbəl] adj. го́дны, ва́рты ўва́гі, незвыча́йны, выда́тны

**remediless** [ˈremədiles] adj. непапра́ўны, невыле́чны; яко́му не́льга дапамагчы́; які́ не́льга нала́дзіць, зрэмантава́ць

**remedy** [ˈremədi] – n., pl. **-dies** 1. лек -у *m.* 2. сро́д|ак -ку *m.* (*ад чаго́*); за́хад -у *m.*; ме́ра *f.* (*су́праць чаго́-н.*); ляч́эньне *n.*

– v.t. выпраўля́ць, папраўля́ць; вылечваць

**remember** [rɪˈmembər] v. 1. па́мятаць. 2. прыпаміна́ць. 3. мець па́мяць: ***Dogs remember*** Саба́кі ма́юць па́мяць. 4. перадава́ць прывіта́ньні: ***Remember me to your father*** Перада́йце прывіта́ньні ад мяне́ ва́шаму ба́цьку. 5. пакіда́ць што-н. у спа́дчыну: ***Grandfather remembered us all in his will*** Дзяду́ля ўспо́мніў усі́х нас у сваім тэстамэ́нце

**remembrance** [rɪˈmembrəns] n. памінаньне *n.*, па́мяць *f.*: ***in remembrance of*** у па́мяць аб *кім-чым*. 2. падару́нак на па́мяць *або́* ўспамі́н аб *кім-чым*, сувэні́р -а *m.* 3. ***remembrances,*** pl. прывіта́ньні

**Remembrance Day** Дзень Па́мяці (*11 лістапа́да, дзень ушанава́ньня ў Кана́дзе і Вялі́кай Брыта́ні па́мяці палéглых у 1-ую і 2-ую сусьве́тныя во́йны*)

**remind** [rɪˈmaɪnd] v.t. напаміна́ць, нага́дваць *каму́ што*; выкліка́ць успамі́ны

**reminder** [rɪˈmaɪndər] n. напамі́н|ак -ку, напамі́н -у *m.*

**reminisce** [ˌremɪˈnɪs] v. прыга́дваць міну́лае

**reminiscence** [ˌremɪˈnɪsəns] n. 1. прыга́дваньне міну́лага. 2. Often ***reminiscences*** успамі́ны, мэмуа́ры *pl.*

**reminiscent** [ˌremɪˈnɪsənt] adj. 1. які́ нага́двае міну́лае. 2. які́ выклікáе ўспамі́н пра што-н.

**remiss** [rɪˈmɪs] adj. нядба́лы, нядба́йны; неруплі́вы; няўва́жлівы: ***remiss in his duty*** няўва́жлівы да сваі́х абавя́зкаў

**remission** [rɪˈmɪʃən] n. 1. вызвалéньне ад спла́ты до́ўгу *або́* ад пакара́ньня. 2. скасава́ньне *або́* зьмякчэ́ньне прысу́ду. 3. адпушчэ́ньне, дарава́ньне грахо́ў. 4. зьме́ншаньне *n.* (*бо́лю, сі́лы*)

**remit** [rɪˈmɪt] v.t. -tt- 1. вызваля́ць ад сплаты до́ўгу *або́* ад пакара́ньня. 2. аслабля́ць, зьмянша́ць (*намага́ньні*). 3. пасыла́ць гро́шы: ***Enclosed is our bill. Please remit*** Далучáем наш раху́нак, калі́ ла́ска заплаце́це. 4. перадава́ць на разгля́д; адсыла́ць (*спра́ву*) наза́д у ніжэ́йшы суд

**remittance** [rɪˈmɪtəns] n. 1. пасыла́ньне гро́шай. 2. пасла́ныя гро́шы; грашо́вы перав́од

**remnant** [ˈremnənt] n. 1. малы́ астáтак. 2. адрэ́з|ак -ка *m.* (*тканíны, стýжкі*)

**remonstrate** [rɪˈmɑːnstreɪt] v.i. 1. (against) пратэставáць. 2. (with) сарамацíць: ***The teacher remonstrated with the boy about his low marks*** Настáўнік сарамацíў хлапцá за ягóныя нíзкія адзнáкі

**remorse** [rɪˈmɔːrs] n. мóцнае шкадавáньне, пакýты сумлéньня; раскáяньне *n.*

**remorseful** [rɪˈmɔːrsfəl] adj. які́ мáе пакýты сумлéньня, пóўны раскáяньня

**remorseless** [rɪˈmɔːrsləs] adj. бязьлíтасны, лю́ты, няшчáдны

**remote** [rɪˈmoʊt] adj. 1. далёкі, аддáлены: ***a remote village*** глухáя вёска. 2. ***a remote relative*** далёкі сваяк, далёкая сваячка. 3. малы́: ***I haven't the remotest idea what you mean*** Я ня мáю наймéншага паня́цьця, што ты мáеш на дýмцы

**remote control** 1. дыстанцы́йнае кіравáньне. 2. прылáда дыстанцы́йнага кіравáньня

**removal** [rɪˈmuːvəl] n. 1. зьбірáньне *n.*, збор -у *m.*: ***garbage removal*** зьбірáньне сьмяцьця́. 2. пераéзд -у *m.*, пярэ́бары на другóе мéсца. 3. звальнéньне з пасáды

**remove** [rɪˈmuːv] – v.t. 1. забірáць; здымáць: ***Remove your hat*** Здымі капялю́ш *абó* Прыбяры́ свой капялю́ш. 2. разьвéйваць: ***to remove all doubts*** адкíнуць усé сумнéвы, перастáць сумнявáцца. 3. забíць. 4. адкідáць: ***to remove snow*** ачышчáць, адкідáць сьнег. 5. вырывáць: ***to remove a tooth*** вы́рваць зуб. 6. звóльніць з прáцы (*пасáды*)
– v.i. пераяжджáць, перабірáцца

**renaissance** [ˌrenəˈsɑːns] – n. адраджэ́ньне *n.*, рэнэсáнс -у *m.* 2. ***the Renaissance*** эпóха рэнэсáнсу
– adj. рэнэсáнсавы; адраджэ́нскі

**rename** [rɪˈneɪm] v.t. пераназывáць; давáць нóвае імя́ (*назóў*)

**renascence** [rɪˈnæsəns] n. 1. ажыўлéньне, аднаўлéньне, адраджэ́ньне *n.* 2. ***the Renascence*** эпóха рэнэсáнсу

**rend** [rend] v.t. **rent, rending** 1. разрывáць: ***Wolves will rend a lamb*** Ваўкí разарвýць ягня́; ***It rends my heart*** Гэ́та рве мне сэ́рца. 2. расшчапля́ць, разьдзірáць: ***Lightning rent the tree*** Малáнка расшчапíла дрэ́ва

**render** [ˈrendər] v. 1. рабíц|ь (-ца): а) ***An accident has rendered him helpless*** Нешчасьлíвы вы́падак зрабíў ягó бездапамóжным. б) ***She rendered us a great service*** Янá зрабíла нам вялíкую паслýгу. 2. давáць для разгля́ду ці зацьвéрджаньня; здавáць: ***The treasurer rendered an account of all the money spent*** Скáрбнік здаў справаздáчу з усíх вы́даткаваных грóшай. 3. выкáзваць: ***to render thanks*** выкáзваць падзя́ку, дзя́каваць. 4. выкóнваць: ***to render the part of Hamlet*** ігрáць рóлю Гáмлета. 5. перакладáць (*з аднаé мóвы на другýю*). 6. ператóпліваць: ***Fat from pigs is rendered into lard*** Сьвінóе сáла ператóпліваюць на шмáлец

**rendezvous** [ˈrɑːndeɪvuː] n. 1. дамóўленая сустрэ́ча. 2. мéсца сустрэ́чы

**renegade** [ˈrenɪgeɪd] – n. 1. рэнэгáт -а *m.*; пярэ́хрыст -а *m.*; здрáднік, адстýпнік -а, адрачэ́н|ец -ца *m.* 2. выгнáн|ец -ца, уцякáч уцекачá *m.*
– adj. рэнэгáцкі, адрачэ́нскі

**renew** [rɪˈnuː] v.t. 1. аднаўля́ць (*знаёмства, дамóву*). 2 узнаўля́ць: ***to renew one's efforts*** узнавíць намагáньні. 3. ***We renewed our lease for another year*** Мы аднавíлі арэ́нду яшчэ́ на год

**renewal** [rɪˈnuːəl] n. аднаўлéньне (*буды́нка, кантрáкту*)

**renounce** [rɪˈnaʊns] v.i. 1. адступáц|ь (-ца); зракáцца; адмаўля́цца: ***He renounced his claim to the money*** Ён адмóвіўся ад сваíх прэтэ́нзіяў на грóшы. 2. выракáцца, зракáцца *кагó-чагó*; адпірáцца ад *кагó-чагó*: ***He renounced his wicked son*** Ён вы́ракся свайгó злóга сы́на

**renovate** [ˈrenəveɪt] v.t. аднаўля́ць, папраўля́ць, перашывáць (*вóпратку*), рэмантавáць (*дом*)

**renovation** [ˌrenəˈveɪʃən] n. рэстаўрáцыя, рэнавáцыя *f.*, аднаўлéньне і ўмацавáньне (*старóга будынка, пóмніка мастáцтва, культýры*)

**renown** [rɪˈnaʊn] n. слáва *f.*, вядóмасьць *f.*: ***a man of renown*** вядóмы чалавéк

**renowned** [rɪˈnaʊnd] adj. слáўны, славýты; вядóмы; выдáтны

**rent I** [rent] – n. 1. кватэ́рная плáта; плáта за арэ́нду зямлí і пад., чынш -у *m.* 2. наём нáйму, пракáт -у *m.* (*часóвае карыстáньне*): ***for rent*** у нáймы (*пакóй, дом*); на пракáт (*áўта і пад.*)
– v.t. 1. наймáць *што* ў *кагó*. б) давáць у нáймы. 2. брáць *абó* аддавáць у арэ́нду (*дом, пóле*), на пракáт (*машы́ну*)

**rent II** [rent] – n. 1. дзíрка, прóразь *f.* 2. разьбíцьцё *n.*, раскóл -у *m.* (*у арганізáцыі*)
– v., *p.t. and p.p.* of **rend**

**rental** [ˈrentəl] n. 1. памéр кватэ́рнае плáты *абó* арэ́нды. 2. прадмéт нáймаў *абó* арэ́нды

**renunciate** [rɪˈnʌnsieɪt] v.i. адмóвіцца ад *чагó*; вы́рачыся *кагó-чагó*

**renunciation** [rɪˌnʌnsiˈeɪʃən] n. адмаўлéньне *n.*; зрачэ́ньне (*прáва на штон., мáемасьці*); вырачэ́ньне *n.*

**reopen** [rɪˈoʊpən] v.t. 1. ізнóў адчыня́ць. 2. нанóва дыскутавáць: ***The matter is settled and cannot be reopened*** Спрáва ўжó вы́рашаная і ня мóжа быць разглéджаная ізнóў

**reorganization** [riˌɔːrgənəˈzeɪʃən] n. 1. унясéньне зьмéнаў у будóву, арганізáцыю чагó-н., рэарганізавáньне *n.* 2. рэарганізáцыя *f.*

**repaid** [rɪˈpeɪd] v., *p.t. and p.p.* of **repay**

**repair** [rɪˈper] – v.t. 1. прáвіць, папраўля́ць: ***He repairs shoes*** Ён прáвіць чаравíкі; лáтаць, лáпіць (*вóпратку*). 2. рамантавáць (*дом*). 3. налáджваць, кампэнсавáць: ***How can I repair the harm done?*** Як магý я напрáвіць учы́неную шкóду?
– n. 1. лáджаньне, папраўля́ньне *n.*; рамóнт -у *m.* 2. спрáўны *абó* прыдáтны для карыстáньня стан: ***to keep the roads in repair*** трымáць дарóгі ў дóбрым стáне. 3. ***The house was in bad repair*** Дом быў у запýшчаным стáне

**reparation** [ˌrepəˈreɪʃən] n. 1. кампэнсáцыя (*за нанéсеную шкóду абó парáненьне*). 2. Usually pl. ***reparations*** рэпарáцыі *pl.*. 3. папраўля́ньне, рамантавáньне *n.*

**repatriate** [ˌriːˈpeɪtrieɪt] v.t. вяртáць назáд на бáцькаўшчыну, рэпатрыявáць

**repatriation** [riːˌpeɪtriˈeɪʃən] n. рэпатрыя́цыя *f.*, вяртáньне на бáцькаўшчыну

**repay** [rɪˈpeɪ] v.t. 1. аддавáць *абó* сплáчваць доўг. 2. адплáчваць: ***No thanks can repay such kindness*** Ніякай падзя́кай не адплаціць за такýю дабрыню́

**repayable** [rɪˈpeɪəbəl] adj. якí мóжа быць *абó* якí мýсіць быць сплáчаны

**repeat** [rɪˈpiːt] – v.t. 1. паўтарáць; рабíць ізнóў: ***to repeat an error*** паўтары́ць памы́лку; ***to repeat a poem from memory*** прадэклямавáць верш напáмяць; ***Repeat the oath after me*** Паўтарáй прыся́гу за мнóю. 2. казáць íншым (*сакрэ́т*)
– n. паўтарэ́ньне *n.*
• ***repeat oneself*** паўтарáцца

**repeatedly** [rɪˈpiːtɪdli] adv. знóў і знóў, раз за рáзам; шматразóва, неаднаразóва

**repeating decimal** пэрыяды́чны дзесяткóвы дроб

**repel** [rɪˈpel] – v.t. (**-ll-** ) 1. адпíхваць; адганя́ць, адбівáць: ***to repel the enemy*** адбíць вóрага. 2. адкідáць (*прапанóву*)
– v.i. 1. ня зьмéшвацца: ***Oil and water repel each other*** Алéй і вадá ня зьмéшваюцца. 2. адштурхóўвацца (*як часьцíнкі з аднóлькавымі электры́чнымі зарáдамі*). 3. выклікáць агíду, непрыя́знасьць

**repellent** [rɪˈpelənt] – adj. 1. агíдны, непрыéмны. 2. непрамакáльны (*пра тканíну*)
– n. ***insect repellent*** срóдак ад камарóў і íншае машкары́

**repent** [rɪˈpent] v.i. 1. кáяцца. 2. шкадавáць: ***to repent one's choice*** шкадавáць свайгó вы́бару

**repentance** [rɪˈpentəns] n. 1. кáяньне *n.*, пакая́ньне (*за грахí*). 2. шкадавáньне

**repentant** [rɪˈpentənt] adj. які кáецца (*што зрабíў якóе зло абó за грахí*); якí шкадуе чагó-н.

**repercussion** [ˌri:pərˈkʌʃən] n. 1. адбíт|ак -ку *m.*, уплы́|ў -ву *m.* (*падзéí*). 2. вóдгук -у *m.*; рэ́ха *n.* 3. аддáча *f.* (*пры ўдáры, стрэ́ле*)

**repetition** [ˌrepəˈtɪʃən] n. 1. паўтарэ́ньне *n.*: ***repetition helps learning*** паўтарэ́ньне дапамагáе вучы́цца. 2. ***singing repetition*** сьпéўка *f.*; ***dancing repetition*** прóба тáнцаў

**repine** [rɪˈpaɪn] v.i. быць незадавóленым; непакóіцца, гры́зьціся; наракáць

**replace** [rɪˈpleɪs] v.t. 1. замяня́ць *кагó-што кім-чым абó* стáвіць *кагó* на чыё-н. мéсца. 2. стáвіць *абó* клáсьці назáд *абó* ізнóў на мéсца

**replacement** [rɪˈpleɪsmənt] n. 1. замéна *f.* 2. асóба, рэч, якáя займáе мéсца *кагó-чагó.* 3. папаўнéньне *n.*

**replay** [rɪˈpleɪ] – v. перагу́льваць, паўтарáць (*матч*)

– n. [ˈri:pleɪ] перагу́льваньне *n.*, паўтóрны матч

**replenish** [rɪˈplenɪʃ] v.t. папаўня́ць, дадáўшы чагó-н.: ***Please replenish the fire*** Калí лáска, падкíнь дрóваў у агóнь

**replica** [ˈreplɪkə] n. 1. даклáдная кóпія карцíны (*малявáная тым сáмым мастакóм*), дублікáт -а *m.* 2. кóпія, рэпрадýкцыя *f.*: ***John is a replica of his father in looks and voice*** Янка — кóпія свайгó бáцькі вы́глядам і гóласам

**reply** [rɪˈplaɪ] – v.t. **-plied, -plying** адкáзваць

– n., pl. **-lies** адкáз -у *m.*: ***in reply to your letter*** у адкáз на ваш ліст

**report** [rɪˈpɔ:rt] – n. 1. паведамлéньне. 2. справаздáча *f.*, справаздáньне *n.* 3. Milit. рáпарт -у *m.*, данясéньне *n.* 4. пóгалас -у *m.*, пагалóскі *pl.*, чу́ткі *pl.*: ***report has it that*** хóдзяць чу́ткі, што

– v.t. 1. паведамля́ць, раскáзваць (*пра што-н. бáчанае, чу́тае*). 2. здавáць афіцы́йную справаздáчу з чагó-н. 3. дакладáць, пісáць справаздáчу *абó* данясéньне аб чым-н. 4. рапартавáць, здавáць рáпарт. 5. зьбірáць вéсткі для газэ́ты, рáдыё. 6. зьяўля́цца: ***to report for duty at 9 A.M.*** прыхóдзіць на прáцу *абó* слу́жбу а 9-ай рáніцы. 7. данóсіць на кагó-н.: ***to report one to the police*** данéсьці на кагó-н. у палíцыю

**reporter** [rɪˈpɔ:rtər] n. 1. справаздá|вец -ўца *m.* 2. рэпартэ́р -а *m.* 3. судóвы пратакалíст

**repose I** [rɪˈpoʊz] – n. 1. адпачы́н|ак -ку *m.*; сон сну *m.*: ***Do not disturb her repose*** Не перашкаджáй ёй адпачывáць. 2. супакó|й -ю *m.*

– v.i. 1. клáсьціся адпачы́ць. 2. адпачывáць, спачывáць, спачы́ць (*і ў значэ́ньні памéрці*). 3. быць на чы́м-н. утрымáньні; спадзявáцца на кагó-н.

**repose II** [rɪˈpoʊz] v.t. 1. клáсьці. 2. пакладáць (*надзéю*)

**reposeful** [rɪˈpoʊzfəl] adj. спакóйны; цíхі

**repository** [rɪˈpɑ:zətɔ:ri] n. **-ries** 1. мéсца, скры́ня для трымáньня рэ́чаў; склад -у *m.* 2. асóба, якóй давéраная якáя-н. рэч абó таямнíца

**reprehensible** [ˌreprɪˈhensəbəl] adj. вáрты дакóру, упíкі ці нагáны; вінавáты

**reprehension** [ˌreprɪˈhenʃən] n. дакóр -у *m.*, упíка *f.*; нагáна *f.*

**represent** [ˌreprɪˈzent] v.t. 1. азначáць: ***The stars on this map represent the cities*** Зóркі на гэ́тай кáрце азначáюць гарады́. 2. прадстаўля́ць, рэпрэзэнтавáць *кагó*, быць прадстаўнікóм. 3. выкóнваць рóлю: ***Each child will represent an animal at the party*** Кóжнае дзіця́ на вéчары бу́дзе выкóнваць рóлю зьвяркá. 4. малявáць; пакáзваць (*на карцíне*)

**representation** [ˌreprɪzenˈteɪʃən] n. 1. прадстаўля́ньне, рэпрэзэнтавáньне *n.* 2. прадстаўнікí *pl.*, прадстаўнíцтва *n.* 3. вóбраз -у *m.*, мадэ́ль *f.* 4. прадстаўлéньне *n.*; спэктáкл|ь -ю, пакáз -у *m.*

**representative** [ˌreprɪˈzentətɪv] – n. 1. прадстаўні́к -á *m.*, прадстаўні́ца *f.* 2. дэпутáт -а *m.*: ***Representative*** дэпутáт Палáты Прадстаўнікóў (*у Злу́чаных Штáтах*); ***House of Representatives*** Палáта Прадстаўнікóў. 3. пры́клад -у *m.*, тыпóвы прадстаўні́к: ***The tiger is a representative of the cat family*** Ты́гар — прадстаўні́к сямéйства кашэ́чых
– adj. 1. прадстаўні́чы (*напр. сход*); ***a representative government*** прадстаўні́чы лад кіравáньня. 2. характэ́рны

**repress** [rɪˈpres] v.t. 1. стры́мваць (*сьлёзы, кáшаль*). 2. душы́ць: ***The dictator repressed the revolt*** Дыктáтар здушы́ў бунт

**repression** [rɪˈpreʃən] n. 1. прыгнёт -у *m.*, рэпрэ́сія *f.* 2. стрымáньне *n.* (*пачуцьця́*)

**repressive** [rɪˈpresɪv] adj. рэпрэсі́ўны

**reprieve** [rɪˈpri:v] – v.t. 1. прыпыня́ць выканáньне сьмярóтнага пакарáньня. 2. давáць перады́шку *абó* часóвую палёгку ад клóпатаў
– n. 1. прыпынéньне пакарáньня (*асабл. сьмярóтнага*). 2. часóвая палёгка (*у ця́жкасьцях, клóпатах*)

**reprimand** [ˈreprɪmænd] – n. сурóвая *абó* публі́чная вымóва
– v.t. давáць сурóвую *абó* публі́чную вымóву

**re-print** [ˌri:ˈprɪnt] v.t. перадрукóўваць (*кні́гу*)

**reprint** [ˈri:prɪnt] n. нóвае выдáньне, перавыдáньне (*кні́гі абó і́ншай публікáцыі*)

**reprisal** [rɪˈpraɪzəl] n. 1. адлáта, пóмста *f.* 2. рэпрэсáліі *pl.* (*эканамі́чныя абó і́ншыя сáнкцыі супрóць якóй-н. дзяржáвы*)

**reproach** [rɪˈproʊtʃ] – n. 1. дакóр -у *m.*, упі́ка *f.* 2. гáньба *f.*, сóрам -у *m.*
– v.t. 1. вінавáціць, дакарáць, упікáць. 2. ганьбавáць, сарамаці́ць

**reproduce** [ˌri:prəˈdu:s] v.t. 1. перадавáць: ***A radio reproduces sounds*** Рáдыё перадаé гу́кі. 2. рабі́ць рэпраду́кцыю (*карці́ны*). 3. пладзі́ць; размнажáцца: ***Many plants reproduce by seeds*** Шмат які́я расьлі́ны размнажáюцца праз насéньне

**reproduction** [ˌri:prəˈdʌkʃən] n. 1. узнаўлéньне. 2. кóпія *f.* 3. размнажэ́ньне (*жывёлінаў, расьлі́наў*)

**reproductive** [ˌri:prəˈdʌktɪv] adj. 1. ***reproductive organs***, Biol. óрганы размнажэ́ньня. 2. пладаві́ты

**reproof** [rɪˈpru:f] n. вымóва, нагáна *f.*

**reproval** [rɪˈpru:vəl] n. гáненьне *n.*, нагáна *f.*

**reprove** [rɪˈpru:v] v.t. гáніць, ганьбавáць *кагó*, крычáць на *кагó*: ***to reprove the boy for teasing the cat*** накрычáць на хлапцá за тóе, што дрáжніць катá

**reptile** [ˈreptaɪl] – n. 1. гад гáда *m.*, coll. гадаўё *n.*, паўзуны́ *pl.* 2. пóдлы чалавéк, падхалі́м -а *m.*
– adj. 1. які́ пóўзае. 2. ні́зкі, пóдлы

**republic** [rɪˈpʌblɪk] n. рэспу́бліка *f.*

**republican** [rɪˈpʌblɪkən] – adj. 1. рэспублікáнскі. 2. ***Republican*** які́ даты́чыцца Рэспублікáнскае Пáртыі ў Злу́чаных Штáтах
– n. 1. рэспублікáн|ец -ца *m.*, рэспублікáнка *f.* 2. ***Republican*** ся́бра Рэспублікáнскае Пáртыі

**repudiate** [rɪˈpju:dieɪt] v.t. 1. не прызнавáць чагó-н.; адкідáць: ***to repudiate a doctrine*** адкі́нуць дактры́ну. 2. адмаўля́цца прызнáць абó заплаці́ць: ***to repudiate a debt*** адмóвіцца заплаці́ць доўг. 3. выракáцца: ***to repudiate a son*** вы́рачыся сы́на

**repugnance** [rɪˈpʌgnəns] n. мóцная нелюбóў, няпры́язьнь; бры́дасьць, агі́да *f.* (*да кагó-чагó*)

**repugnant** [rɪˈpʌgnənt] adj. 1. пры́кры, непрыéмны; нясьцéрпны, нязнóсны: ***Work is repugnant to lazy people*** Прáца нясьцéрпная для ляні́вых людзéй. 2. супярэ́чны, супраці́ўны

**repulse** [rɪˈpʌls] – v.t. 1. адбівáць, адганя́ць. 2. адмаўля́цца прыня́ць, адкідáць: ***to repulse the plan*** адкі́нуць плян

– n. 1. адпо́р -у *m.* 2. адмо́ва *f.*, адкіда́ньне *n.*

**repulsion** [rɪˈpʌlʃən] n. 1. вялі́кая няпры́язьнь, бры́дасьць *або́* агі́да. 2. адмо́ва *f.*, адкіда́ньне *n.*

**repulsive** [rɪˈpʌlsɪv] adj. брыдкі́; агі́дны, пры́кры

**repulsiveness** [rɪˈpʌlsɪvnəs] n. бры́дасьць, агі́да *f.*

**reputable** [ˈrepjətəbəl] adj. 1. паважа́ны, шанава́ны; шано́ўны, пава́жны (*пра век*). 2. з до́брай рэпута́цыяй

**reputation** [ˌrepjəˈteɪʃən] n. 1. рэпута́цыя *f.*: ***to have the reputation*** сла́віцца; ***He had the reputation of being very bright*** Ён сла́віўся тым, што быў ве́льмі здо́льны і ке́млівы. 2. до́брае імя́, вялі́кая паша́на, пава́га ў і́ншых: ***a person of reputation*** паважа́ны чалаве́к. 3. сла́ва *f.*: ***a scientist of worldwide reputation*** вучо́ны з сусьве́тнай сла́вай

**reputed** [rɪˈpju:təd] adj. меркава́ны; які́ ма́е быць: ***He is the reputed author of a book*** Мярку́ецца, што ён ма́е быць а́ўтарам кні́гі

**request** [rɪˈkwest] – v. прасі́ць *каго́-чаго́*: ***He requested a loan*** Ён прасі́ў пазы́кі; ***He requested her to go with him*** Ён прасі́ў яе́ пайсьці́ зь ім

– n. 1. про́сьба *f.* 2. по́пыт -у *m.*: ***to be in great request*** а) мець вялі́кі по́пыт (*пра тава́р*). б) быць папуля́рным (*і пра асо́бу*). 3. ***by request*** у адка́з на про́сьбу

**require** [rɪˈkwaɪr] v.i. 1. патрабава́ць: ***We shall require more help*** Нам трэ́ба бу́дзе больш дапамо́гі. 2. зага́дваць; вымага́ць: ***You are required to go there*** Вам загада́на туды́ ісьці́

**required course** абавязко́вы курс (*у ВНУ*)

**requirement** [rɪˈkwaɪrmənt] n. патрабава́ньне *n.*; вымо́га *f.*: ***Patience is a requirement in teaching*** Цярплі́васьць патрэ́бная пры вучэ́ньні

**requisite** [ˈrekwɪzɪt] – adj. патрэ́бны; неабхо́дны; абавязко́вы: ***the qualities requisite for a leader*** я́касьці неабхо́дныя для лі́дэра

– n. патрэ́бнае, неабхо́днае; неабхо́днасьць *f.*: ***Food and air are requisites for life*** Ежа й паве́тра — неабхо́днасьці для жыцьця́

**requisition** [ˌrekwɪˈzɪʃən] – n. 1. рэквізы́цыя *f.* (*асабл. для во́йска*). 2. пі́саны зага́д для рэквізы́цыі. 3. запатрабава́ньне *n.*, патрэ́ба *f.*: ***to be in requisition*** быць патрэ́бным для *чаго́*

– v.t. рэквізава́ць

**requital** [rɪˈkwaɪtəl] n. адпла́та, запла́та *f.*; аддзя́ка *f.*; аддару́нlак -ку *m.*

**reroute** [ˌri:ˈru:t] v.t. пасыла́ць но́вай *або́* і́ншай даро́гай; мяня́ць маршру́т

**rerun** [ˌri:ˈrʌn] – v.i. **-ran, -running** ізно́ў бе́гчы

– n. [ˈri:rʌn] стара́я тэлевізі́йная прагра́ма *або́* фільм пака́званы ізно́ў

**rescind** [rɪˈsɪnd] v.t. касава́ць, анулява́ць

**rescue** [ˈreskju:] – v.t. 1. ратава́ць, вырато́ўваць, вызваля́ць *каго́* зь небясьпе́кі, бяды́, нявóлі. 2. Law a) незако́нна *або́* сі́лай вызваля́ць *каго́* (*з астро́гу, а́рышту*). б) бяспра́ўна забіра́ць *што*

– n. рату́нак, парату́нак *m.*, збаўле́ньне (*ад чаго́*); незако́ннае вызвале́ньне (*з а́рышту*)

**rescuer** [ˈreskju:ər] n. выратава́льнік -а *m.*, выратава́льніца *f.*; збаві́целlь -я *m.*, збаві́целька *f.*; вызвалі́целlь -я *m.*

**research** [ˈri:sɜ:rtʃ] – n. дасьле́даваньне (*навуко́вае*) *n.*; до́сьледы, по́шукі *pl.*

– v.t. [rɪˈsɜ:rtʃ] дасьле́даваць

– v.i. [rɪˈsɜ:rtʃ] право́дзіць до́сьледы *або́* по́шукі

**researcher** [rɪˈsɜ:rtʃər] n. дасьле́днік -а *m.*

**resemblance** [rɪˈzembləns] n. падо́бны вы́гляд, падо́бнасьць *f.*; падабе́нства *n.*

**resemble** [rɪˈzembəl] v.i. быць падо́бным да *каго́-чаго́*

**resembling** [rɪˈzemblɪŋ] adj. падо́бны

**resent** [rɪˈzent] v.i. чу́цца пакры́ўджаным; злава́цца; абура́цца

**resentful** [rɪˈzentfəl] adj. 1. крыўдлі́вы. 2. гнéўны

**resentment** [rɪˈzentmənt] n. абурэ́ньне *n.*; гне|ў -ву *m.*; крыўда *f.*: ***to have no resentment against someone*** ня мець крыўды *або́* зло́сьці на *каго́*

**reservation** [ˌrezərˈveɪʃən] n. 1. абмежава́льная ўмо́ва, агаво́рка *f.*: ***to accept the plan with reservations*** прыня́ць плян з агаво́ркамі. 2. рэзэрва́цыя *f.* (*зямля́ трыма́ная ў запа́се для якое-н. мэ́ты*); запаве́днік -у *m.* 3. папярэ́дняя замо́ва, рэзэрва́цыя *f.*: ***We make reservations in advance for rooms in hotels, seats at a theater*** Мы за́гадзя замаўля́ем пакі́ ў гатэ́лі, ме́сцы ў тэа́тры

**reserve** [rɪˈzɜ:rv] – v.t. 1. пакіда́ць, наза-па́шваць на бу́дучыню: ***Reserve enough money for your fare home*** Пакі́нь дастатко́ва гро́шай на біле́т дамо́ў. 2. замаўля́ць за́гадзя: ***to reserve a table*** зарэзэрвава́ць стол (*у рэстара́не*). 3. устры́мвацца: ***to reserve criticism*** стрыма́цца ад кры́тыкі

– n. 1. запасны́, рэзэрво́вы фонд (*напр. у ба́нку*). 2. Milit. а) запасны́я аддзе́лы (*у ча́се бі́твы*). б) ***the reserve*** запа́с -у, рэзэ́рва *f.* в) ***reserves*** запасьнікі́, рэзэрві́сты. 3. запаве́днік -у *m.* 4. запа́с -у *m.* 5. стры́манасьць, прыхава́насьць, нетавары́скасьць *f.*; замо́ўчваньне *n.*: ***without reserve*** адкры́та, шчы́ра

– adj. запасны́, рэзэрво́вы

**reserved** [rɪˈzɜ:rvd] adj. 1. замо́ўлены, зарэзэрвава́ны: ***reserved seats*** зарэзэрвава́ныя ме́сцы (*у тэа́тры, рэстара́не*). 2. аддзе́лены: ***a reserved section of the stadium*** аддзе́леная ча́стка стадыёну. 3. стры́маны ў сло́вах і ўчы́нках. 4. замкнёны ў сабе́, нетава́рыскі

**reserve officer** афіцэ́р запа́су

**reservist** [rɪˈzɜ:rvɪst] n. рэзэрві́ст -а *m.*

**reservoir** [ˈrezərvwɑ:r] n. 1. рэзэрвуа́р, басэ́йн -а *m.*; вадасхо́вішча *n.* 2. пасу́дзіна для ва́дкасьцяў і га́заў. 3. крыні́ца *f.*, збо́рнік -а *m.*: ***His mind was a reservoir of facts*** Яго́ная галава́ была́ ска́рбніцай фа́ктаў; ***reservoir of strength*** крыні́ца сі́лы

**reside** [rɪˈzaɪd] v.i. 1. жыць, пражыва́ць. 2. (in) быць, паляга́ць: ***Her charm resides in her happy smile*** Ейны чар у е́йнай шчасьлі́вай усьме́шцы

**residence** [ˈrezɪdəns] n. 1. дом -а *m.*, паме́шканьне, жытло́ *n.*, ме́сца жы́харства, рэзыдэ́нцыя *f.* 2. інтэрна́т -у *m.* 3. пражыва́ньне *n.*

• ***in residence*** а) які́ жыве́ на ме́сцы: ***The owner of the house is not in residence*** Ула́сьнік дома не жыве́ ў гэ́тым до́ме. б) які́ жыве́ на ме́сцы слу́жбы, в) які́ жыве́ ў інтэрна́це (*пра ву́чня, студэ́нта*)

**resident** [ˈrezɪdənt] – n. 1. ста́лы жыха́р: ***resident physician*** ле́кар, які́ жыве́ пры шпіталі́. 2. ле́кар, які закО́нчыў ле́карскую пра́ктыку і жыве́ пры шпіталі́. 3. рэзыдэ́нт -а *m.* (*дыпляматы́чны прадстаўні́к не́йкае дзяржа́вы ў другО́й, ра́нгам ніжэ́йшы за пасла́ньніка*)

– adj. неперальётны (*пра пту́шку*)

**residential** [ˌrezɪˈdenʃəl] adj. жылы́: ***residential district*** жылы́ раён

• ***residential qualification*** цэнз асе́ласьці

**residue** [ˈrezɪdu:] n.1. аста́ча *f.*, аста́т|ак -ку *m.*, рэ́шткі *pl.*, аса́д|ак -ку *m.*: ***The syrup had dried up, leaving a sticky residue*** Сыро́п вы́парыўся, пакі́нуўшы лі́пкі аса́дак. 2. Law ча́стка спа́дчыны, яка́я застае́цца пасьля́ спла́ты ўсі́х даўго́ў, выда́ткаў ды і́ншых спа́дчыньнікаў

**resign** [rɪˈzaɪn] v.i. 1. адмаўля́цца (*ад паса́ды*), ісьці́ ў адста́ўку. 2. зрака́цца: ***The Member of Parliament resigned his seat*** Дэпута́т зро́кся свайго́ ме́сца ў парля́мэнце

• ***resign oneself*** паддава́цца, здава́цца; скара́цца; зьміра́цца

**resignation** [ˌrezɪgˈneɪʃən] n. 1. адмо́ва *f.*, адрачэ́ньне *n.* 2. пісьмо́вае паведамле́ньне аб адрачэ́ньні ад стано́вішча. 3. пако́ра *f.*, ціхмя́насьць *f.*: ***with re-***

***signation*** пакóрна, пакóрліва, ціхмя́на, ціха: ***She bore the pain with resignation*** Яна́ пакóрліва перанóсіла боль

**resigned** [rɪˈzaɪnd] adj. пакóрны, пакóрлівы, ціхі, ціхмя́ны

**resilience** [rɪˈzɪliəns] n. 1. прýгкасьць, гнýткасьць, элясты́чнасьць *f.*: ***Rubber has resilience*** Гýма ма́е прýгкасьць. 2. здóльнасьць хýтка перамага́ць прыгнéчаны настрóй; жыцьцяра́дасьнасьць *f.*

**resilient** [rɪˈzɪliənt] adj. 1. прýгкі, прýткі, элясты́чны: ***resilient steel*** прýгкая сталь. 2. жыцьцяра́дасны, мóцны дýхам: ***a resilient nature that throws off trouble*** мóцная дýхам натýра, што перамага́е нягóды

**resin** [ˈrezɪn] n. 1. жыві́ца, смала́ *f.* 2. штýчная смала́

**resinous** [ˈrezɪnəs] adj. жыві́чны; смóльны, смалі́сты

**resist** [rɪˈzɪst] v.i. 1. не паддава́цца: ***The window resisted his efforts to open it*** Акнó не паддалóся ягóным намага́ньням адчыні́ць ягó. 2. супраці́віцца: ***Do not resist*** Не супраці́ўся. 3. стры́мвацца: ***I could not resist laughing*** Я ня мог стрыма́цца ад сьмéху. 4. супрацьстая́ць, вытры́мваць на́ціск *чагó*, не паддава́цца: ***to resist disease*** не паддава́цца хварóбе

**resistance** [rɪˈzɪstəns] n. 1. супраці́ў -ву *m.*: ***The bank clerk made no resistance to the robbers*** Ба́нкавы слýжачы не супраціві́ўся рабаўні́ка́м. 2. устóйлівасьць, супраціўля́льнасьць *f.*, імуні́тэт -у *m.*: ***She has little resistance to germs and so is often ill*** Яна́ ма́е слабы́ імуні́тэт да бактэ́рыяў і ча́ста хварэ́е. 3. супраці́ў -ву *m.*, супраціўлéньне *n.*: ***to follow the line of least resistance*** ісьці́ па лі́ніі наймéншага супраці́ву. 4. Electr. супраціўлéньне *n.*: ***Copper has a low resistance*** Медзь ма́е малóе супраціўлéньне

• ***Resistance*** Супраці́ў -ву *m.* (*партыза́нскі рух*)

**resistance coil** рэаста́т -а *m.*

**resistant** [rɪˈzɪstənt] adj. 1. імýнны. 2. устóйлівы

**resistible** [rɪˈzɪstəbəl] adj. якóму мóжна супраці́віцца

**resistless** [rɪˈzɪstləs] adj.: несупраціўля́льны: ***resistless impulse*** неадóльны íмпульс

**resole** [ˌriːˈsoʊl] v.t. падбіва́ць паднóскі

**resolute** [ˈrezəluːt] adj. 1. станóўкі, стаnaўкí, рашýчы, нава́жаны, непахі́сны. 2. адва́жны

**resolution** [ˌrezəˈluːʃən] n. 1. пастанóва, рэзалю́цыя *f.* а) ***He made a resolution to get up early*** Ён пастанаві́ў ра́на ўстава́ць. б) ***The club passed a resolution thanking the secretary for his help throughout the year*** Клюб прыня́ў рэзалю́цыю з падзя́кай сакратарý за ягóную пра́цу на працягу гóду. 3. рашýчасьць, станóўкасьць, нава́жанасьць *f.* 4. раскла́д на ча́сткі. 5. растварэ́ньне *n.*; раствóр -у *m.*

**resoluteness** [ˈrezəluːtnəs] n. цьвёрдасьць, непахі́снасьць *f.* (*хара́ктару*)

**resolvable** [rɪˈzɑːlvəbəl] adj. 1. які́ мóжна раскла́сьці на ча́сткі; распушча́льны, раствара́льны. 2. які́ мóжна разьвяза́ць, вы́рашыць; выраша́льны

**resolve** [rɪˈzɑːlv] – v. 1. выраша́ць, пастанаўля́ць; нава́жвацца. 2. раскладáць|ь (-ца) на ча́сткі. 3. выясьня́ць, растлума́чваць, разьвéйваць (*сумнéвы*). 4. перагаласóўваць. 5. замéньвацца, пераўтвара́цца: ***The discussion resolved itself into an argument*** Дыскýсія перайшла́ ў сва́рку

– n. 1. пастанóва *f.* 2. нава́жанасьць, непахі́снасьць *f.*

**resolved** [rɪˈzɑːlvd] adj. нава́жаны, станаўкí, непахі́сны

**resonance** [ˈrezənəns] n. 1. вóдгалас, вóдгук -у *m.*, вóдгульле *n.* 2. Phys. рэзана́нс -у *m.*

**resonant** [ˈrezənənt] adj. 1. які́ гучы́ць, раздаéцца. 2. рэзана́нсны (*пра гук*). 3. з дóбрым рэзана́нсам

**resonator** [ˈrezəneɪtər] n. рэзана́тар -а *m.*

**resort** [rɪˈzɔ:rt] – v.i. 1. бывáць, навéдваць, хадзíць, éзьдзіць: ***Many people resort to the beaches in hot weather*** Шмат людзéй éзьдзіць на пля́жы ў гарáчае надвóр'е. 2. зьвяртáцца, ужывáць: ***to resort to violence*** ужы́ць гвáлт
– n. 1. навéдваньне *n.*: ***A park is a place of popular resort in good weather*** У пагóду парк — папуля́рнае мéсца для навéдваньня. 2. мéсца адпачы́нку: ***summer resort*** лéтні курóрт. 3. ужывáньне: ***the resort to force*** ужыцьцё сíлы

**resound** [rɪˈzaʊnd] v. 1. раздавáцца, адбíцца рэ́хам. 2. гучэ́ць: ***Radios resounded from every house*** Рáдыё гучэ́ла з кóжнага дóму. 3. (with) напаўня́цца *чым*: ***The room resounded with children's shouts*** Пакóй пóўніўся дзіця́чымі кры́камі. 4. праслаўля́ць, усхваля́ць, расхваля́ць: ***to resound a hero's praise*** усхвалíць герóя

**resource** [ˈri:sɔ:rs] n. 1. (звыч. pl.) рэсýрсы, запáсы, крынíцы; магчы́масьці *pl.*: ***resources of money*** грашóвыя срóдкі; ***to be at the end of one's resources*** вы́чарпаць усé магчы́масьці; ***natural resources*** прырóдныя багáцьці. 2. спóсаб -у *m.*; вы́йсьце *m.* (*зь бяды́*). 3. знахóдлівасьць *f.*

**resourceful** [rɪˈsɔ:rsfəl] adj. знахóдлівы; кéмлівы

**respect** [rɪˈspekt] – n. 1. павáга, пашáна *f.*: ***to show respect to*** стáвіцца з пашáнай да *кагó*; ***to pay one's respects to*** вы́казаць *камý* сваю пашáну; ***Show respect for other people's property*** Шанýй ўлáснасьць íншых людзéй. 2. прывітáньні: ***pay my respects to him*** перадáй ямý маé прывітáньні. 3. сýвязь *f.*; дачынéньне *n.*, аднóсіны *pl.*: ***The plan is unwise in many respects*** Плян неразýмны ў шмат якіх аднóсінах; ***in all respects*** ува ўсíх аднóсінах
– v.t. 1. паважáць *кагó*, стáвіцца з пашáнай да *кагó*. 2. шанавáць; лíчыцца з *чым*. 3. стáвіцца да *кагó-чагó*
• ***in respect of*** што даты́чыць *чагó*
• ***in respect that*** тамý, што
• ***with respect to*** даты́чна, аднóсна *чагó*; беручы́ пад увáгу, што

**respectable** [rɪˈspektəbəl] adj. 1. прыстóйны; сумлéнны; шанавáны, паважáны (*чалавéк*); самавíты (*вы́гляд*). 2. лáдны, давóлі вялíкі, знáчны, немалы́ (*пра кóлькасьць*). 3. дóбры, неблагí, нядрэ́нны

**respectful** [rɪˈspektfəl] adj. пóўны пашáны, вéтлівы; пачцíвы (*і пра тон*)

**respecting** [rɪˈspektɪŋ] prep. аднóсна *чагó*, пра *што*, накóнт *чагó*

**respective** [rɪˈspektɪv] adj. адпавéдны

**respectively** [rɪˈspektɪvli] adv. у адпавéдным парáдку, адпавéдна: ***John, Peter and Paul are 10, 12, and 11 years old respectively*** Янку, Петрусю й Паўлюкý адпавéдна дзéсяць, дванáццаць і адзінáццаць гадóў

**respiration** [ˌrespəˈreɪʃən] n. дыхáньне *n.*

**respirator** [ˈrespɪreɪtər] n. рэсьпірáтар -а *m.* (*для дапамóгі ды́хаць абó для ахóвы ад гáзу, пы́лу*)

**respiratory** [ˈrespərətɔ:ri] adj. ды́хальны

**respire** [rɪˈspaɪr] v.i. ды́хаць

**respite** [rɪˈspaɪt] n. 1. перады́х -у *m.* (*у прáцы*), палёгка *f.* (*напр. ад гарачынí*). 2. адклáд -у *m.*, адтэрмінавáньне; прыпынéньне *n.* (*асабл. пакарáньня сьмéрцю*)

**respond** [rɪˈspɑ:nd] v.t. 1. адкáзваць, давáць адкáз. 2. адгукáцца, рэагавáць на *што*

**respondent** [rɪˈspɑ:ndənt] – adj. які́ адкáзвае *абó* рэагýе
– n. 1. адкáзьнік -а *m.*, адкáзьніца *f.*; абвінавáчан|ы -ага *m.*, абвінавáчаная *f.* (*асабл. у спрáве развóду*). 2. рэспандэ́нт -а *m.*

**response** [rɪˈspɑ:ns] n. 1. адкáз -у *m.* (*слóвам абó чы́нам*): ***in response to*** у адкáз на. 2 . вóдгук -у *m.*; рэáкцыя *f.* (*асабл. цéла ці дýмкі на сты́мул*)

**responsibility** [rɪˌspɑ:nsəˈbɪləti] n., pl. **-ties** 1. адкáзнасьць *f.* 2. абавя́з|ак -ку *m.*

**responsible** [rɪˈspɑ:nsəbəl] adj. 1. адкáзны: ***to be responsible for*** быць адкáз-

ным за *каго́-што*; ***to be responsible to*** быць адка́зным перад *кім*. 2. быць прычы́най *чаго́*: ***The bad weather is responsible for the small attendance*** Благо́е надво́р'е — прычы́на мало́е наве́двальнасьці. 3. го́дны даве́ру, надзе́йны, пэ́ўны: ***a very responsible position*** ве́льмі адка́зная паса́да

**responsive** [rɪˈspɑːnsɪv] adj. 1. у адка́з: ***a responsive article*** артыку́л, напі́саны ў адка́з. 2. спага́длівы, чу́лы: ***to have a responsive nature*** мець чу́лую нату́ру

**rest I** [rest] – n. 1. сон сну *m.*; адпачы́н|ак -ку *m.*: ***a good night's rest*** спако́йны сон уначы́; ***to allow an hour for rest*** даць адну́ гадзі́ну для адпачы́нку. 2. супако́|й -ю *m.*, супакае́ньне *n.*: ***to give short rest from pain*** нако́ратка супако́іць боль. 3. супы́н -у *m.*: ***to bring car to rest*** спыні́ць машы́ну. 4. Mus. па́ўза *f.* 5. сьмерць, магі́ла *f.*

– v.i. 1. спаць: ***Lie down and rest*** Ляж і сьпі. 2. адпачыва́ць. 3. спыня́цца, затры́мвацца. 4. дава́ць адпачы́ць, перадыхну́ць *каму́*. 5. (against) абапіра́цца: ***The ladder rests against the wall*** Драбі́на абапіра́ецца на сьцяну́. 6. ускладаць (*надзе́ю на каго́*). 7. ляжа́ць па́парам (*пра зямлю́*)

• ***be at rest*** а) спаць. б) спыні́цца, стая́ць (*пра машы́ну*). в) не адчува́ць бо́лю; супако́іцца. г) паме́рці

• ***lay to rest*** хава́ць (*паме́рлага*)

**rest II** [rest] n. рэ́шта *f.*

**restaurant** [ˈrestərənt] n. рэстара́н -а *m.*

**restful** [ˈrestfəl] adj. 1. супако́йлівы, які прыно́сіць супакае́ньне (*пра сло́вы і г.д.*). 2. ціхі, супако́йны

**restitution** [ˌrestɪˈtuːʃən] n. 1. вярта́ньне наза́д забра́нага. 2. пакрыцьцё стра́таў, кампэнса́цыя *f.* (*за стра́ты, пашко́джаньне ці скале́чаньне*)

**restive** [ˈrestɪv], adj. 1. няўсе́длівы, няўры́мсьлівы. 2. упа́рты, упо́рлівы; непаслухмя́ны. 3. нараві́сты (*пра каня́*)

**restless** [ˈrestləs] adj. 1. трыво́жны; неспако́йны; імклі́вы. 2. ***a restless night*** бяссо́нная ноч. 3. няўсе́длівы, няўры́мсьлівы, неўтаймава́ны

**restlessly** [ˈrestləsli] adv. неспако́йна, трыво́жна; няўры́мсьліва, неўтаймава́на

**restoration** [ˌrestəˈreɪʃən] n. 1. аднаўле́ньне ране́й зры́нутага палíты́чнага ла́ду: ***Restoration*** аднаўле́ньне мана́рхіі ў Англіі у 1660 г. 2. рэстаўра́цыя *f.* (*по́мнікаў маста́цтва, гісто́рыі*). 3. рэстаўрава́ны *або́* адно́ўлены буды́нак, карці́на

**restore** [rɪˈstɔːr] v.t. 1. вярта́ць, аднаўля́ць: ***to restore order*** аднаві́ць пара́дак. 2. аднаўля́ць; адбудо́ўваць, рэстаўрава́ць (*буды́ніну, по́мнік*). 3. варо́чаць, вярта́ць, аддава́ць наза́д (*скра́дзенае*)

**restrain** [rɪˈstreɪn] v.t. 1. стры́мваць: ***She could not restrain her curiosity*** Яна́ не магла́ стрыма́ць свае́ ціка́ўнасьці. 2. трыма́ць у зьняво́леньні

**restraint** [rɪˈstreɪnt] – n. 1. абмяжо́ўваньне, абмежава́ньне *n.* 2. утаймава́ньне, уціхамі́раньне *n.*: ***Noisy children sometimes need restraint*** Гаманлі́вых дзяце́й ча́сам трэ́ба ўціхамі́рваць. 3. стры́манасьць (*у пачу́цьцях*), замкнёнасьць *f.*

– adj. стры́маны

**restraint of trade** абмежава́ньні ў га́ндлі

**restrict** [rɪˈstrɪkt] v.t. (to) абмяжо́ўваць да чаго́: ***Our club membership is restricted to twelve*** Ко́лькасьць сябро́ў на́шага клю́бу абмяжо́ўваецца да дванаццацёх

**restricted** [rɪˈstrɪktəd] adj. ву́зкі, абмежава́ны: ***restricted hotel*** гатэ́ль то́лькі для гасьце́й пэ́ўнае катэго́рыі

**restriction** [rɪˈstrɪkʃən] n. абмежава́ньне *n.*: ***without restriction*** без абмежава́ньняў

**restrictive** [rɪˈstrɪktɪv] adj. абмежава́льны: ***Some laws are prohibitive; some are only restrictive*** Некато́рыя зако́ны забаро́нныя, а некато́рыя то́лькі абмежава́льныя

**rest room** прыбіра́льня *f.* (*у тэа́тры, кра́ме, на ста́нцыі*)

**restring** [ˌriːˈstrɪŋ] v.i. **-strung** нанізаць па́церкі нано́ва

**result** [rɪˈzʌlt] – n. 1. вы́нік -у *m.*: ***Result of the fall was a broken leg*** Вы́нікам падзе́ньня была́ злама́ная нага́; ***the result of a game*** вы́нік гульні́. 2 до́бры вы́нік, карысны вы́нік: ***We want results, not talk*** Мы хо́чам вы́нікаў, ня гу́тарак. 3. Math. вы́нік падлі́каў, падраху́н|ак -ку *m.*
– v.i. 1. быць вы́нікам *чаго́.* 2. канча́цца *чым*: ***Eating too much often results in sickness*** Звы́чка зашмат е́сьці ча́ста канча́ецца хваро́бай
• ***as a result of*** у вы́ніку *чаго́*

**resultant** [rɪˈzʌltənt] – adj. які́ вынікáе
– n., Phys. раўнадзе́йная *f.* (*пра сі́лу*)

**resume** [rɪˈzuːm] v.t. пачына́ць ізно́ў, рабі́ць дале́й (*пасьля́ перапы́нку*): ***Resume reading where we left off*** Чыта́й дале́й ад ме́сца, дзе мы спыні́ліся. 2. ізно́ў заня́ць (*ме́сца*): ***Those standing may resume their seats*** Хто стаі́ць, мо́жа ізно́ў се́сьці

**resumé** [ˈrezəmeɪ] n. 1. рэзюмэ́, *n., indecl.*, каро́ткі вы́клад зьме́сту прамо́вы. 2. біягра́фі́чная даве́дка (*асаблі́ва пры по́шуку пра́цы*)

**resumption** [rɪˈzʌmpʃən] n. узнаўле́ньне чаго́-н. пасьля́ перапы́нку

**resurge** [rɪˈsɜːrdʒ] v.i. паўстава́ць нано́ва; адраджа́цца

**resurgence** [rɪˈsɜːrdʒəns] n. паўстава́ньне нано́ва; адраджэ́ньне *n.*

**resurrect** [ˌrezəˈrekt] – v.i. уваскраса́ць
– v.t. уваскраша́ць

**resurrection** [ˌrezəˈrekʃən] n. уваскрасе́ньне *n.* 2. ***Resurrection*** уваскрасе́ньне Хрысто́ва

**ret** [ret] v.t. мачы́ць (*лён, кано́плі*)

**retail** [ˈriːteɪl] – n. про́дам уразадро́б, про́даж паштучна *або́* невялі́кімі ко́лькасьцямі: ***at retail*** уразадро́б; ***to buy at wholesale and sell at retail*** купля́ць гу́ртам і прадава́ць уразадро́б
– adj. пашту́чны: ***the retail price*** ро́зьнічная, пашту́чная цана́; ***the retail store*** кра́ма, дзе тава́р прадае́цца ўраздро́б
– v.t. 1. прадава́ць невялі́кімі ко́лькасьцямі. 2. [rɪˈteɪl] перака́зваць: ***to retail gossip*** перака́зваць плёткі
– v.i. прадава́ць ураздро́б *або́* пашту́чна

**retailer** [ˈriːteɪlər] n. ро́зьнічны гандля́р

**retain** [rɪˈteɪn] v.t. 1. затры́мваць, захо́ўваць (*звы́чай, ко́лер*). 2. захо́ўваць у па́мяці, па́мятаць. 3. найма́ць (*асабл. адвака́та*)

**retainer** [rɪˈteɪnər] n. 1. ганара́р, пла́чаны адвака́ту. 2. Hist. слуг|а́ -і́, васа́л -а *m.*

**retaliate** [rɪˈtælieɪt] v.i. по́мсьціц|ь (-ца)

**retaliated** [rɪˈtælieɪtɪd] adj. адпо́мшчаны

**retaliation** [rɪˈtæliˈeɪʃən] n. 1. по́мшчаньне *n.* 2. по́мста *f.*; адпла́та (*злом за зло*)

**retard** [rɪˈtɑːrd] v.t. 1. замару́джваць, запаво́льваць: ***Bad roads retarded the car*** Дрэ́нныя даро́гі запаво́лілі машы́ну. 2. затры́мваць, перашкаджа́ць

**retardation** [ˌriːtɑːrˈdeɪʃən] n. 1. замару́джваньне, запаво́льваньне, затры́мваньне *n.* 2. спазьне́ньне *n.*, запо́зьненасьць *f.*

**retarded** [rɪˈtɑːrdɪd] – adj. 1. запо́зьнены, затрыма́ны. 2. разумо́ва адста́лы, разумо́ва недаразьві́ты: ***a class for retarded children*** кля́са для разумо́ва адста́лых дзяце́й
– n. недаразьві́т|ы -ага *m.*, недаразьві́тая *f.*

**retch** [retʃ] v.i. пя́цца пры ваніта́ваньні

**retention** [rɪˈtenʃən] n. 1. утрыма́ньне, захо́ўваньне *n.* 2. здо́льнасьць утрыма́ць. 3. здо́льнасьць па́мятаць

**reticence** [ˈretəsəns] n. 1. скры́тнасьць, маўклі́васьць, стры́манасьць *f.* 2. замо́ўчваньне *n.*

**reticent** [ˈretəsənt] adj. 1. маўклі́вы, негаваркі́. 2. стры́маны ў гу́тарцы, які́ замо́ўчвае

**retina** [ˈretənə] n., pl. **-nas, -nae** сятча́тка *f.*

**retinue** [ˈretənuː] n. сьві́та *f.* (*карале́ўская*)

**retire** [rɪˈtaɪr] v. 1. пакіда́ць слу́жбу, заня́так; ісьці́ *або́* пасыла́ць на пэ́нсію. 2. адасабля́цца: ***to retire into oneself*** замкну́цца ў сабе́; ***She retired to a convent*** Яна́ пайшла́ ў манасты́р. 3. здыма́ць з абаро́ту (*пашко́джаныя банкно́ты*). 4. адступа́ць (*пра во́йска*). 5. кла́сьціся спаць: ***We retire early*** Мы ра́на кладзе́мся спаць

**retired** [rɪˈtaɪrd] adj. 1. на пэ́нсіі, у адста́ўцы: ***a retired teacher*** наста́ўнік-пэнсіянэ́р; ***a retired captain*** капіта́н у адста́ўцы. 2. замкнёны ў сабе́, нетавары́скі. 3. ці́хі; заці́шны, наво́дшыбе: ***a retired spot*** заці́шны заку́так наво́дшыбе

**retirement** [rɪˈtaɪrmənt] n. 1. пэ́нсія *f.*, адыхо́д на пэ́нсію; адста́ўка *f.* 2. адасо́бленае, нетава́рыскае жыцьцё. 3. заці́шнае ме́сца на во́дшыбе

**retiring** [rɪˈtaɪrɪŋ] adj. нетавары́скі, які́ пазьбяга́е людзе́й; замкну́ты ў сабе́; сарамлі́вы: ***a retiring nature*** замкну́ты хара́ктар

**retort I** [rɪˈtɔ:rt] v.i. 1. адка́зваць ху́тка *або́* во́стра. 2. адка́зваць тым са́мым: ***to retort insult for insult*** адказа́ць абра́зай на абра́зу

**retort II** [rɪˈtɔ:rt] n. рэто́рта *f.* (*для дыстыля́цыі*)

**retrace** [rɪˈtreɪs] v.t. пераво́дзіць, калькава́ць (*малю́нак, красьлю́нак*)

**retract** [rɪˈtrækt] v.t. 1. уця́гваць, адця́гваць: ***The cat retracts its claws*** Кот уця́гвае сваé кіпцюры́. 2. браць наза́д (*сло́ва, абяца́ньне*), адмаўля́цца, адрака́цца, адступа́цца ад *чаго́*

**retraction** [rɪˈtrækʃən] n. адрачэ́ньне *n.* (*ад ска́занага, абяца́ньня*)

**retread** [ˌri:ˈtred] – v.t. абнаўля́ць, вульканізава́ць шы́ну (*у а́ўце, ро́вары*)
– n. [ˈri:tred] абно́ўленая шы́на

**retreat** [rɪˈtri:t] – v.i. адступа́ць
– n. 1. адступле́ньне *n.*: ***to beat a retreat*** уцяка́ць, адступа́ць. 2. сыгна́л да адступле́ньня. 3. адбо́й (*сыгна́л заканчэ́ньня дня ў во́йску*). 4. прыту́л|ак, прыста́н|ак -ку *m.*, прыста́нішча *n.* (*дзе затрыма́цца або́ адпачы́ць*). 5. вар'я́цкі дом *або́* дом для алькаго́лікаў

**retribution** [ˌretrɪˈbju:ʃən] n. 1. заслу́жанае пакара́ньне; адпла́та за зло, а ча́сам і за дабро́. 2. пакара́ньне, а ча́сам узнагаро́джаньне *n.*

**retrieve** [rɪˈtri:v] v.t. 1. адшу́кваць, знахо́дзіць: ***to retrieve a lost pen*** знайсьці́ згу́бленае пяро́. 2. вярта́ць, атры́мваць наза́д; паляпша́ць. 3. а) напраўля́ць, выпраўля́ць: ***to retrieve a mistake*** напра́віць памы́лку. б) вярта́ць; кампэнсава́ць (*напр. стра́ты*)

**retroactive** [ˌretroʊˈæktɪv] adj. які́ дзе́е наза́д, са зваро́тнай сі́лай: ***a retroactive law*** зако́н са зваро́тнай сі́лай, які́ ма́е зваро́тную сі́лу

**retrogress** [ˌretrəˈgres] v.i. ісьці́ наза́д у сваі́м разьвіцьці́; го́ршаць, ісьці́ да заняпа́ду

**retrospect** [ˌretrəˈspekt] – n. рэтраспэкты́ва *f.*: ***in retrospect*** азіра́ючыся наза́д, разгляда́ючы мі́нулае
– v.i. ду́маць (*пра мі́нулае*)

**retrospection** [ˌretrəˈspekʃən] n. зваро́т да мі́нулага, агля́д мі́нулых падзе́яў *або́* перажыва́ньняў, рэтраспэ́кцыя *f.*

**retrospective** [ˌretrəˈspektɪv] adj. зьвéрнуты да мі́нулага, рэтраспэкты́ўны; які́ ма́е зваро́тную сі́лу (*пра зако́н, пастано́ву*)

**return** [rɪˈtɜ:rn] – v.i.варо́чацца, вярта́цца: ***He will return this summer*** Ён ве́рнецца сёлета ўле́тку
– v.t. 1. варо́чаць, вярта́ць, адсыла́ць наза́д, аддава́ць наза́д (*напр. доўг*): ***Return that book to the library*** Вярні́ ту́ю кні́гу ў бібліятэ́ку. 2. дава́ць (*прыбы́так*). 3. афіцы́йна паведамля́ць, абвяшча́ць: ***The jury returned a verdict of guilty*** Суд прысяжны́х абвясьці́ў прысу́д: вінава́ты. 4. адка́зваць: ***"No!" — he returned crossly*** «Не!» — адказа́ў ён зло́сна; ***to return in kind*** адка́зваць тым са́мым
– n. 1. вярта́ньне *n.*, зваро́т, паваро́т -у *m.* (*куды́*). 2. вярта́ньне *n.*, зваро́т

-у *m.* (*доўгу*). 3. адплáта *f.*: ***a poor return for kindness*** малáя адплáта за дабрыню́. 4. справаздáча, дэклярáцыя *f.*: ***income tax return*** падáткавая дэклярáцыя; ***election returns*** дáдзеныя галасавáньня, вы́бараў. 5. адкáз -у *m.*
– adj. 1. зварóтны: ***return ticket*** зварóтны білéт. 2. паўтóрны: ***a return performance*** паўтóрны пакáз
• ***a return game*** рэвáнш -у *m.*
• ***in return*** узамéн *чагó*: ***in return for*** у адплáту за *што*, у абмéн на *што*
• ***returns,*** pl. прыхóд -у *m.*, вы́ручка *f.*
**returnable** [rɪˈtɜːrnəbəl] adj. які́ мóжна вярну́ць, аддáць назáд (*пра тавáр*)
**return address** зварóтны áдрас
**return trip** падарóжжа ў абóдва бакі́, туды́ й назáд
**reunion** [ˌriːˈjuːnjən] n. 1. тавары́ская сустрэ́ча, збóрка *f.*, зьезд -у *m.*: ***the reunion of parted friends*** сустрэ́ча кóлішніх сябрóў; ***family reunion*** сустрэ́ча ўсяé сям'í. 2. узьяднáньне *n.*
**reunite** [ˌriːjuˈnaɪt] v.i, v.t. злучáць, спалучáць, лучы́цца, спалучáцца знóў: ***Mother and child were reunited after years of separation*** Мáці й дзіця́ знóў злучы́ліся пасьля́ гадóў разлу́кі. 2. сыхóдзіцца, сустракáцца ізнóў
**reveal I** [rɪˈviːl] v.t. 1. раскрывáць: ***Promise never to reveal my secret*** Абяцáй, што нікóлі ня вы́дасі майгó сакрэ́ту. 2. пакáзваць; выяўля́ць: ***The open shirt revealed a golden cross*** З-пад расшпíленай кашу́лі паказáўся залаты́ кры́жык
**reveal II** [rɪˈviːl] n. 1. вушáк -á *m.* 2. рáма акнá (*аўтамабíля*)
**revel** [ˈrevəl] – v.i., **(-ll-)** 1. (in) цéшыцца, рáдавацца, быць вéльмі задавóленым з *кагó-чагó*: ***The children reveled in country life*** Дзéці вéльмі цéшыліся з жыцьця́ на вёсцы. 2. весялíцца, гуля́ць
– n. гуля́нка *f.*
**revelation** [ˌrevəlˈeɪʃən] n. 1. выяўлéньне, раскрыццё: ***unsuspected revelation of a crime*** неспадзявáнае раскрыццё злачы́нства. 2. адкрыццё *n.*: ***Her true nature was a revelation to me*** Яé сапрáўдная натýра стáлася для мянé адкрыццём. 3. аб'яўлéньне *n.*, шчырóты: ***Revelation*** Аб'яўлéньне сьв. Яна
**revelry** [ˈrevəlri] n., pl. **-ries** шу́мная, бу́йная весялóсьць *абó* забáва. 2. вясёлая гуля́нка
**revenge** [rɪˈvendʒ] – n. 1. пóмста *f.* 2. пóмсьлівасьць *f.* 3. рэвáнш -у *m.*
– v.i. v.t. пóмсьціць: ***to be revenged*** быць адпóмшчаным
**revengeful** [rɪˈvendʒfəl] adj. пóмсьлівы
**revenue** [ˈrevənuː] n. 1. прыбы́т|ак -ку *m.*, дахóд -у *m.*: ***The government gets revenue from taxes*** Урáд атры́мвае дахóд з падáткаў. 2. кры́ніца дахóдаў
**revere** [rɪˈvɪr] v.t. глыбóка шанавáць; мóцна паважáць; стáвіцца з пашáнай
**reverence** [ˈrevərəns] – n. 1. глыбóкая пашáна. 2. глыбóкі паклóн, рэвэрáнс -у *m.*
– v.t. стáвіцца з глыбóкай пашáнай; глыбóка паважáць
**reverend** [ˈrevərənd] – adj. 1. шанóўны, паважáны, дастóйны, правялéбны
– n. Informal духóўн|ы -ага *m.*
**Reverend** [ˈrevərənd] n. Дастóйны, Правялéбны (*зварóт да сьвятарá*)
**reverent** [ˈrevərənt] n. пачцíвы; пóўны пашáны
**reverie** [ˈrevəri] *тс.* **revery**, n. 1. летуцéньні, мрóі *pl.* 2. летуцéннасьць, задумéннасьць *f.*
**revers** [rɪˈvɪr] n., pl. **revers** адварóт -у *m.* (*палітá, пінжакá*)
**reversal** [rɪˈvɜːrsəl] n. 1. зьмéна на адварóтнае. 2. скасавáньне *n.* (*пастанóвы*), адмéна *f.* (*закóну*)
**reverse** [rɪˈvɜːrs] – n. 1. адварóт -у *m.*, адварóтны бок: ***on the reverse of the medal*** на адварóце мэдаля́. 2. адварóтнае *n.* 3. зáдні ход. 4. зьмéна на гóршае; пагóршаньне, пагаршэ́ньне *n.*
– adj. адварóтны, супрацьлéглы: ***reverse motion*** рух у адварóтным кіру́нку

– v.t. 1. a) заваро́чваць; зьмяня́ць кіру́нак. 2. вываро́чваць навы́варат. 3. пераваро́чваць, перакуля́ць дагары́ нага́мі. 4. зьмяня́ць на адваро́тнае; ануля́ваць, скасо́ўваць (*зако́н, пастано́ву*)

**reversely** [rɪˈvɜ:rsli] adv. 1. у адваро́тным кіру́нку *або́* пара́дку. 2. з друго́га бо́ку; наадваро́т

**reversibility** [rɪˌvɜ:rsɪˈbɪləti] n. абарача́льнасьць *f.* (*працэ́су*)

**reversible** [rɪˈvɜ:rsəbəl] – adj. 1. абарача́льны, двухбако́вы: ***reversible raincoat*** двухбако́вы плашч (*плашч, які́ мо́жна насі́ць на або́два бакі́*)
– n. двухбако́вае адзе́ньне

**reversion** [rɪˈvɜ:rʒən] n. вярта́ньне *n.*, зваро́т -у *m.* (*да папярэ́дняга*)

**revert** [rɪˈvɜ:rt] v.i. варо́чацца, вярта́цца: ***to revert to one's old habits*** вярну́цца да сваі́х стары́х звы́чак

**revet** [rɪˈvet] v.t. тынкава́ць, абклада́ць (*сьце́ны, адхо́ны*); абліцо́ўваць (*сьцяну́*)

**revetment** [rɪˈvetmənt] n. 1. абкла́дка *f.* 2. вал -у *m.* (*для абаро́ны ад стыхі́і*)

**review** [rɪˈvju:] – v.t. 1. разгляда́ць, перагляда́ць. 2. перагляда́ць, разгляда́ць нано́ва (*прысу́д*). 3. рабі́ць агля́д. 4. рэцэнзава́ць (*кні́гу*). 5. паўтара́ць (*шко́льны матэрыя́л*)
– n. 1. паўто́рнае разгляда́ньне, дасьле́даваньне *n.* 2. перагля́д -у *m.* (*спра́вы, прысу́ду*). 3. агля́д -у *m.* 4. рэцэ́нзія *f.*, крыты́чны во́дгук (*на кні́гу, п'е́су*). 5. пэрыяды́чны ча́сапіс, агля́д -у *m.*

**reviewer** [rɪˈvju:ər] n. агляда́льнік -а *m.*; рэцэнзэ́нт -а *m.*

**revile** [rɪˈvaɪl] v.t. абзыва́ць, абража́ць, зьневажа́ць

**revise** [rɪˈvaɪz] – v.t. 1. папраўля́ць; перагляда́ць, перапрацо́ўваць (*тэкст*). 2. зьмяня́ць: ***to revise one's opinion*** зьмяні́ць сваю́ ду́мку
– n. 1. пра́ўленьне *n.*, зьве́рка *f.* 2. вы́праўлены тэкст. 3. друга́я карэ́кта

**revision** [rɪˈvɪʒən] n. 1. перагля́д -у *m.* 2. перагле́джанае, папра́ўленае выда́ньне

**revival** [rɪˈvaɪvəl] n. 1. ажыва́ньне, апрыто́мненьне *n.* 2. ажыўле́ньне *n.* 3. адраджэ́ньне *n.*

**revive** [rɪˈvaɪv] – v.i. 1. ажыва́ць: ***Flowers revive in water*** Кве́ткі ажыва́юць у вадзе́. 2. прыхо́дзіць да прыто́мнасьці, апрыто́мніваць
– v.t. 1. ажыўля́ць, вярта́ць сі́лы: ***Hot coffee revived the tired man*** Гара́чая ка́ва ажыві́ла змо́ранага чалаве́ка. 2. прыво́дзіць да прыто́мнасьці

**revocable** [rɪˈvoʊkəbəl] adj. які́ мо́жа быць адклі́каны, скасава́ны

**revocatory** [rɪˈvoʊkətɔ:ri] adj. які́ адкліка́е, касу́е

**revoke** [rɪˈvoʊk] v.t. адкліка́ць; касава́ць, скасо́ўваць

**revolt** [rɪˈvoʊlt] – n. бунт -у *m.*: ***to repress the revolt*** здушы́ць бунт
– v.i. 1. бунтава́цца; паўстава́ць: ***The people revolted against the dictator*** Наро́д паўста́ў супро́ць дыкта́тара. 2. гі́дзіцца, бры́дзіцца. 3. выкліка́ць агі́ду, адштурхо́ўваць

**revolting** [rɪˈvoʊltɪŋ] adj. 1. бунта́рны. 2. абура́льны: ***revolting behavior*** абура́льныя паво́дзіны. 3. агі́дны, гі́дкі

**revolution** [ˌrevəlˈu:ʃən] n. 1. рэвалю́цыя *f.* 2. пераваро́т -у *m.*, карэ́нная зьме́на. 2. абаро́т, кругаваро́т -у *m.*: ***One revolution of the earth around the sun takes a year*** Адзі́н абаро́т зямлі́ вако́л со́нца займа́е год

**revolutionary** [ˌrevəlˈu:ʃəneri] – adj. рэвалюцы́йны
– n., pl. **-aries** рэвалюцыянэ́р -а *m.*

**revolve** [rɪˈvɑ:lv] v. 1. абарача́цца, кру́ціцца: ***The moon revolves around the earth*** Ме́сяц кру́ціцца вако́л зямлі́. 2. абду́мваць, варо́чаць мазга́мі

**revolver** [rɪˈvɑ:lvər] n. рэвальвэ́р -а *m.*

**revolving door** абарача́льныя дзьве́ры

**revue** [rɪˈvju:] n. рэвю́ *n., indecl.*

**reward** [rɪˈwɔ:rd] – n. 1. узнагаро́да *f.*; адпла́та *f.* 2. грашо́вая ўзнагаро́да
– v.t. 1. узнагаро́джваць, дава́ць узнагаро́ду. 2. абдо́рваць; аддава́ць нале́жнае

**re-write** [ˌri:ˈraɪt] – v., **-wrote, -written, -writing** 1. перапі́сваць. 2. перарабля́ць, перапрацо́ўваць (*арты́кул, ру́капіс*)
– n. [ˈri:raɪt] перапрацо́ўка *f.* (*п'е́сы*)

**rhapsody** [ˈræpsədi] n., pl. **-dies** 1. Mus. рапсо́дыя. 2. вялі́кае захапле́ньне, узьнёсласьць *f.* 3. эпі́чная пе́сьня

**rhetoric** [ˈretərɪk] n. рыто́рыка *f.*

**rhetorical** [rɪˈtɔ:rɪkəl] adj. рытары́чны: ***rhetorical question*** рытары́чнае пыта́ньне

**rhetorician** [ˌretəˈrɪʃən] n. ара́тар -а *m.*

**rheumatic** [ruˈmætɪk] – adj. рэўматы́чны
– n. рэўма́тык -а *m.*
• ***rheumatics,*** pl., Informal рэўматы́зм -у *m.*

**rheumatism** [ˈru:mətɪzəm] n. рэўматы́зм -у *m.*, рама́тус -у *m.*

**rhinoceros** [raɪˈnɑ:sərəs] n., pl. **-oses** or, esp. coll. **-os** насаро́г -а *m.*

**rhomboid** [ˈrɑ:mbɔɪd], n., Geom. рамбо́ід, паралелагра́м -а *m.*

**rhomboidal** [ˌrɑ:mˈbɔɪdəl] adj. рамбо́ідны

**rhombus** [ˈrɑ:mbəs] n., pl. **-buses, -bi** ромб, суко́сьнік -а *m.*

**rhubarb** [ˈru:bɑ:rb] n., Bot. раба́рбар -у *m.*, рэве́нь -ю *m.*

**rhyme** [raɪm] – v.t. рыфмава́ць
– n. ры́фма *f.*
• ***without rhyme or reason*** ні скла́ду ні ла́ду; ні з таго́ ні зь сяго́

**rhythm** [ˈrɪðəm], n. 1. рытм -у *m.* 2. вершава́ны паме́р

**rhythmic** [ˈrɪðmɪk] adj. рытмі́чны

**rib** [rɪb] n. 1. ска́ба, рабры́на *f., pl.* рэ́бры. 2. рабро́ парасо́на. 3. рубе́ц на вэльвэ́це

**ribbed** [rɪbd] adj. 1. з рэ́брамі. 2. рубча́сты

**ribbon** [ˈrɪbən] n. сту́жка, та́сьма *f.*

**rice** [raɪs] n. рыс -у *m.*

**rich** [rɪtʃ] adj. 1. бага́ты, замо́жны. 2. я́касны: ***rich soil*** урадлі́вая гле́ба. 3. бага́ты, кашто́ўны: ***a rich harvest*** бага́ты ўраджа́й; ***rich dress*** дарагая суке́нка. 4. здо́бны (*пра пе́чыва*). 5. густы́, насы́чаны (*ко́лер*); глыбо́кі (*го́лас*)

**riches** [ˈrɪtʃɪz] n., pl. бага́цьце *n.*

**rick** [rɪk] – n. стог -а *m.*, сьці́рта *f.* (*се́на, сало́мы*)
– v.t. стагава́ць, сьціртава́ць

**rickets** [ˈrɪkɪts] n. рахі́т -у *m.* (*хваро́ба*)

**rickety**[ˈrɪkəti] adj. 1. хі́сткі, расхіста́ны. 2. рахіты́чны

**rid** [rɪd] v.t. **rid** or **ridded, ridding** пазбыва́цца, пазбаўля́цца
• ***be rid of*** пазба́віцца ад *каго́-чаго́*
• ***get rid of*** а) пазбы́цца *каго́-чаго́*. б) забіва́ць

**riddance** [ˈrɪdəns] n. збаўле́ньне: ***Good riddance***! Нарэ́шце пазба́віліся! (*ад назо́льнага чалаве́ка*);

**ridden** [ˈrɪdən] v., *p.p. of* **ride**

**riddle I** [ˈrɪdəl] n. 1. зага́дка *f.* 2. зага́дкавасьць *f.*

**riddle II** [ˈrɪdəl] v.t. 1. зьдзіра́ўліваць, зрашэ́чваць: ***the wall riddled with bullets*** сьцяна́ зрашэ́чаная ку́лямі. 2. се́яць, прасява́ць

**ride** [raɪd] – v.i. **rode, ridden** 1. е́хаць (*на кані́, ко́нна*). 2. е́хаць, ката́цца: ***to ride on a train*** е́хаць цягніко́м
– v.t. 1. сьлі́згаць: ***The boat rides the waves*** Чо́вен сьлі́згае па хва́лях. 2. апано́ўваць, ахапля́ць, авало́дваць: ***ridden by foolish fears*** апанава́ны уя́ўнымі стра́хамі
– n. 1.язда́ *f.* 2. падво́з -у *m.*, падво́зка *f.*: ***Give me a ride*** Падвязі́ мяне́. 3. прае́здка, пае́здка *f.* (*для заба́вы*). 4. пае́здка *f.*: ***a ticket for a single ride*** біле́т на адну́ пае́здку
• ***go for a ride*** прае́хацца
• ***ride a race*** удзе́льнічаць у ска́чках
• ***ride down*** а) зьбіць з ног. б) пераге́наць, апярэ́дзіць
• ***ride high*** карыста́цца по́сьпехам, быць на хва́лі; мець уда́чу
• ***take for a ride,*** Sl. а) забі́ць. б) ашука́ць

**rider** [ˈraɪdər] n. 1. ко́ньнік, ве́ршнік -а *m.* 2. дапаўне́ньне *n.* (*у дакумэ́нтах*)

**ridge** [rɪdʒ] – n. 1. хрыбе́т -та́ *m.*: ***the ridge of the roof*** ві́льчык, хрыбе́т страхі́; ***ridge (of mountains)*** го́рны

ланцу́г. 2. рубе́ц на тканіне. 3. грэ́бень (*баразны́*)
– v. карабаціцца, утвара́ць скла́дкі

**ridicule** [ˈrɪdɪkju:l] – v.t. высьме́йваць, выстаўля́ць на сьмех, абсьме́йваць; насьміха́цца з *каго́*
– n. насьме́шка *f.*; высьме́йваньне *n.*

**ridiculous** [rɪˈdɪkjələs] adj. сьмяхо́тны; дзіва́цкі; абсу́рдны; сьме́ху ва́рты: ***It is ridiculous*** Гэ́та сьме́ху ва́рта

**riding** [ˈraɪdɪŋ] – n. 1. язда́ *f.* 2. даро́жка для язды́ (*ко́нна, ро́варам*)
– adj. які́ е́зьдзіць, падаро́жнічае

**riding school** ко́нная шко́ла, шко́ла верхаво́й язды́

**riff-raff** [ˈrɪfræf] n. 1. сьмяцьцё, адкі́ды. 2. адкі́ды грама́дзтва, шпана́ *f.*

**rifle I** [ˈraɪfəl] n. стрэ́льба *f.*, ружжо́ *n.*

**rifle II** [ˈraɪfəl] v.t. 1. ператрасаць. 2. абіра́ць дачы́ста, аблато́шваць: ***The boys rifled the apple tree*** Хло́пцы аблаташы́лі я́блыню. 3. нараза́ць ствол (*у збро́і*)

**rifleman** [ˈraɪfəlmən] n., pl. **-men** страло́к -ка́ *m.*

**rift** [rɪft] – n. 1. расшчэ́піна, шчы́ліна *f.* 2. Figur. разры́ў -ву *m.*
– v. расшчапля́ць

**rig** [rɪg] – v.t. **(-gg)** 1. ладава́ць, аснашча́ць. 2. Informal убіра́цца
– n. 1. прыла́дзьзе *n.* 2. сьвідрава́льная вы́шка. 3. Informal гарніту́р -а, стро́й -ю, убо́р -у *m.* 4. аўтацягні́к -а́ *m.*

**rigging** [ˈrɪgɪŋ] n., Naut. прыла́дзьдзе *n.*, снасьць *f.*

**right** [raɪt] – adj. 1. пра́вільны, праўдзі́вы, слу́шны: ***the right answer*** пра́вільны адка́з. 2. адпаве́дны; нале́жны: ***to say the right thing at the right time*** сказа́ць да ча́су й да ме́сца; ***the right size*** адпаве́дны паме́р. 3. пра́вы, до́бры: ***the right side of the cloth*** пра́вы бок тканіны. 4. пра́вы: ***the right bank of a river*** пра́вы бе́раг рэ́чкі; ***right hand*** пра́вая рука́. 5. про́сты: ***a right line*** про́стая лі́нія; ***a right angle*** про́сты кут. 6. нарма́льны, у до́брым (нале́жным) ста́не: ***in one's right mind*** пры здаро́вым ро́зуме; ***I feel all right*** Я чу́юся до́бра
– adv. 1. пра́вільна, нале́жна, адпаве́дна, слу́шна: ***She guessed it right*** Яна́ пра́вільна ўгада́ла. 2. до́бра, справядлі́ва: ***He acted right*** Ён справядлі́ва пасту́піў. 3. напра́ва: ***turn right*** зьвярні́ напра́ва. 4. дакла́дна, якра́з: ***Put it right here*** Палажы́ гэ́та сюды́; ***right now*** во́сь цяпе́р, цяпе́рака
– n. 1. дабро́ *n.*: ***Do right, not wrong*** Рабі́ дабро́, а ня зло. 2. справядлі́вае дамага́ньне, пра́ва *n.*, або́ прывіле́й -ю *m.*: ***the right to vote*** пра́ва галасава́ць (*і ў вы́барах*). 3. сумле́ннае, справядлі́вае ста́ўленьне; справядлі́васьць *f.* 4. мо́цны ўда́р пра́вай рукою. 5. пра́вы бок: ***to drive on the right*** е́хаць пра́вым бо́кам; ***to turn to the right*** павярну́ць напра́ва. 6. ***the Right*** пра́выя, пра́вы ля́гер (*у парля́мэнце*)
– v.t. 1. выпраўля́ць: ***to right errors*** выпраўля́ць памы́лкі. 2. усталёўваць справядлі́васьць, рэабілітава́ць: ***to right the oppressed*** абараня́ць правы́ прыгне́чаных

• ***by right*** or ***rights*** слу́шна, справядлі́ва
• ***get it right*** пра́вільна зразуме́ць
• ***it serves you right*** так табе́ і трэ́ба
• ***put things right*** упара́дкаваць рэ́чы
• ***right about!*** наўкру́г! круго́м!
• ***right along*** бесьперапы́нку
• ***right away*** за́раз жа, неадкла́дна
• ***turn out right*** до́бра вы́йшла

**righteous** [ˈraɪtʃəs] adj. 1. пра́ведны. 2. справядлі́вы, апраўда́ны: ***righteous indignation*** справядлі́вае абурэ́ньне

**righteousness** [ˈraɪtʃəsnəs] n. пра́веднасьць *f.*

**rightful** [ˈraɪtfəl] adj. 1. зако́нны: ***the rightful owner*** зако́нны ўла́сьнік. 2. справядлі́вы, апраўда́ны, пра́вільны

**right-hand** [ˌraɪtˈhænd] adj. 1. пра́вы, праварýчны. 2. Figur. падру́чны, карысны

**Right Honorable** Ва́ша Мі́ласьць, Ва́ша Чэсьць (*зваро́т да судьдзі́*)

**rightly** [ˈraɪtli] adv. 1. слу́шна, справядлі́ва. 2. пра́вільна, адпаве́дна

**Right Reverend** Ва́ша Дасто́йнасьць, Высо́кадасто́йны (*да духо́ўніка*)

**right triangle** прастаку́тны трыку́тнік

**rigid** [ˈrɪdʒɪd] adj. 1. нягну́ткі, усто́йлівы, цьвёрды: ***a rigid support*** цьвёрдая апо́ра. 2. стро́гі, суро́вы: ***a rigid examination*** стро́гі экза́мэн

**rigidity** [rɪˈdʒɪdəti] n. 1. цьвёрдасьць, нягну́ткасьць *f.* 2. стро́гасьць, суро́васьць *f.*

**rigor**, Brit. **rigour** [ˈrɪgər] n. 1. суро́васьць; жо́рсткасьць. 2. цьвёрдасьць, нягну́ткасьць *f.* 3. здранцьве́ньне, спруцяне́ньне *n.* 4. дрыго́тка *f.*

**rigorous** [ˈrɪgərəs] adj. 1. суро́вы; жо́рсткі; стро́гі: ***the rigorous discipline in a prison*** жо́рсткая дысцыплі́на ў турме́. 2. рыгарысты́чны

**rim** [rɪm] – n. 1. кра|й -ю *m.*, абад|о́к, беражк|о́к -ка́ *m.*, аблямо́ўка *f.*: ***the rim of a cup*** край ку́бка. 2. во́бад -а *m.*: ***the rim of a wheel*** во́бад ко́ла

– v.t. **(-mm)** 1. аблямо́ўваць, ашляко́ўваць. 2. наклада́ць, насаджа́ць во́бад. 3. акружа́ць: ***The pond was rimmed with wild flowers*** Са́жалку аблямо́ўвалі кра́скі

**rime I** [raɪm] n., *гл.* **rhyme**

**rime II** [raɪm] – n. шэ́рань *f.*, іне́|й -ю *m.*

– v. пакрыва́ц|ь (-ца) шэ́раньню, аб'і́ньваць

**rind** [raɪnd] n. 1. ску́рка, кажуры́на, кажэ́рына *f.* 2. кара́ *f.*

**ring I** [rɪŋ] – n. 1. пярсьцён|ак -ка *m.* 2. ко́ла -а *n.*, круг, абру́ч -а *m.* 3. рынг -у *m.*; бегавы́ круг; цыркава́я арэ́на. 4. гадаво́е ко́лца (*дрэ́ва*). 5. клі́ка, хе́ўра, згра́я *f.*: ***a ring of corrupt politicians*** клі́ка карумпава́ных палі́тыкаў

– v.t. абкружа́ць

**ring II** [rɪŋ] – v.i. **rang, rung, ringing** 1. зьвіне́ць, дзы́нкаць. 2. званіць. 3. тэлефанава́ць. 4. по́ўніцца гу́кам: ***The room rang with shouts and laughter*** Пако́й напо́ўніўся кры́камі і сьме́хам. 5. гучэ́ць: ***His words rang true*** Яго́ныя сло́вы гучэ́лі шчы́ра. 6. зьвіне́ць, *impers.*: ***My ears ring*** Мне зьвіні́ць увушшу́. 7. перазво́ньвацца: ***The bells rang a joyous peal*** Званы́ ра́дасна перазво́ньваліся

– n. 1. звон -у *m.* 2. зван́ок (*тэлефо́нны*), тэлефанава́ньне *n.*

• ***It has a ring of truth*** Гэ́та гучы́ць праўдападо́бна

• ***ring for*** выклі́каць *каго́* званко́м

• ***ring off*** у ка́се прабі́ць су́му

**ringer I** [ˈrɪŋər] n. звана́р -а́ *m.*

**ringer II** [ˈrɪŋər] n., Informal двайні́к -а́ *m.*

**ringlet** [ˈrɪŋlət] n. 1. ко́лца *n.* 2. ку́дзер -а *m.* (*валасо́ў*)

**rink** [rɪŋk] n. 1. ко́ўзанка *f.*, катк|о́к -ка́ *m.* 2. хаке́йная пляцо́ўка

**rinse** [rɪns] – v.t. паласка́ць (*валасы́, бялі́зну*)

– n. паласка́ньне *n.*

**riot** [ˈraɪət] – n. 1. бунт -у *m.*, забурэ́ньні, хваля́ва́ньні *pl.* 2. вы́бух -у *m.*: ***to break out in a riot of laughter*** вы́бухнуць ро́гатам. 3. разгу́л -у *m.*; неўтаймава́насьць *f.* 4. бу́йства *n.*: ***a riot of colour*** бу́йства ко́лераў. 5. Informal арыгіна́л -а, весялу́н веселуна́ *m.*: ***He was a riot at the party*** На вечары́не ён быў веселуно́м

– v.i. 1. бунтава́цца. 2. бу́йна весялі́цца, буя́ніць

• ***read the riot act*** даць суро́вую вымо́ву

• ***run riot*** а) разысьці́ся, разбушава́цца. б) буя́ць, дзі́ка разраста́цца (*пра расьлі́ны*). в) жыць разгу́льным жыцьцём

**rioter** [ˈraɪətər] n. бунта́р -а́ *m.*

**riotous** [ˈraɪətəs] adj. 1. бунта́рны, збунтава́ны. 2. буя́ны, хуліга́нскі: ***He was expelled from school for riotous conduct*** Яго́ вы́кінулі са шко́лы за буя́нства

**rip I** [rɪp] – v.t. **(-pp)** 1. разрыва́ць, распо́рваць. 2. расьпіло́ўваць (*уздо́ўж*)

– n. разры́|ў ву *m.*, прадзёрына *f.*

• ***rip off*** зрыва́ць

• ***rip out*** вырыва́ць, выдзіра́ць

• ***rip up*** разрыва́ць

**rip II** [rɪp] n., Informal 1. нікчэмнік -а *m.* 2. шаўлюга, кляча *f.*, заежджаны конь

**RIP** [ˌɑːraɪˈpiː] (Rest In Peace) мір пра́ху тваймý

**ripe** [raɪp] adj. 1. сьпе́лы. 2. гато́вы, насьпе́лы: ***a ripe boil*** нары́ў гато́вы прарва́цца; ***time is ripe*** насьпе́ў час

**ripen** [ˈraɪpən] – v.i. сьпець, дасьпява́ць, высьпява́ць
– v.t. сьпялíць, высьпяля́ць

**ripening** [ˈraɪpənɪŋ] n. 1. дасьпява́ньне, высьпява́ньне *n.* 2. сьпяле́ньне *n.*

**rip-off** [ˈrɪpɔːf] Informal абдзіра́лаўка *f.*, абдзíрства *n.*

**ripple** [ˈrɪpəl] – n. 1. рабізна́ *f.* (*на вадзе́*); хва́лістасьць *f.* 2. цурчэ́ньне *n.*
– v.t. 1. пакрыва́ць (-ца) рабізно́й: ***A breeze rippled the quiet waters*** Паве́ў ве́тру пакры́ў рабізно́ю спако́йную ваду́
– v.i. цурчэ́ць
• ***ripple of laughter*** хва́ля сьме́ху

**rise** [raɪz] – v.i. **rose, risen, rising** 1. устава́ць: a) ***to rise from a chair*** устаць з крэ́сла. б) ***to rise at dawn*** устава́ць на зо́лку. 2. уздыма́цца: ***Hills rise in the distance*** Узго́ркі ўздыма́юцца ў далечыні́: ***The wind rose rapidly*** Рапто́ўна ўзьня́ўся ве́цер. 3. падыма́цца, павыша́цца; расьці́: ***Prices are rising*** Расту́ць цэ́ны; ***His spirits rose*** У яго́ падня́ўся настро́й. 4. усхо́дзіць, узыхо́дзіць: ***the sun rises*** узыхо́дзіць со́нца. 5. пачына́цца: ***The river rises from a spring*** Рэ́чка пачына́ецца з крыні́цы. 6. расьці́, уздыма́цца: ***Houses are rising on the edge of the town*** На ўскра́іне ме́ста расту́ць дамы́. 7. падыхо́дзіць (*пра це́ста*). 8. уваскраса́ць: ***Christ is Risen!*** Хрысто́с Уваскро́с!
– n. 1. узды́м -у *m.*, узьня́цьце *n.* 2. пад'ём -у *m.* (*даро́гі, узго́рка*). 3. усхо́д, узыхо́д -у *m.* 4. узвы́шша *n.*, узго́р|ак -ка *m.* 5. паўстава́ньне *n.*; пача́т|ак -ку *m.* 6. выто́кі (*ракі́*). 7. павышэ́ньне *n.* (*цэ́наў, пла́ты*)
• ***give rise to*** пача́ць, вы́клікаць *што*
• ***rise against*** паўстава́ць; бунтава́цца супро́ць *каго́*
• ***rise to*** быць на ўзро́ўні ***rise to power*** прыхо́д да ўла́ды

**risen** [ˈrɪzən] v., *p.p. of* **rise**

**rising** [ˈraɪzɪŋ] n. 1. устава́ньне *n.* 2. узыхо́джаньне *n.* 3. паўста́ньне *n.*, бунт -у *m.*

**risk** [rɪsk] – n. 1. ры́зыка *f.* 2. рызыко́ўнасьць, няпэ́ўнасьць *f.* 3. ненадзе́йная асо́ба
– v.i. рызыкава́ць
• ***run a risk*** or ***take a risk*** ісьці́ на ры́зыку, рызыкава́ць

**risky** [ˈrɪski] adj. рызыко́ўны, небясьпе́чны

**rite** [raɪt] n. 1. абра́д, рытуа́л -у *m.*: ***rite of baptism*** абра́д хро́сту. 2. звы́ча|й -ю *m.*

**ritual** [ˈrɪtʃuəl] – n. 1. рытуа́л -у *m.*, цырымо́нія *f.* 2. трэ́бнік -а *m.*
– adj. абра́давы, рытуа́льны: ***a ritual dance*** рытуа́льны та́нец

**rival** [ˈraɪvəl] – n. супе́рнік -а *m.*; канкурэ́нт -а *m.*, канкурэ́нтка *f.*
– adj. супе́рніцкі, супе́рны; канкурэ́нтны: ***the rival store*** канкурэ́нтная кра́ма
– v.i. **(-ll-)** 1. канкурава́ць, супе́рнічаць. 2. спабо́рнічаць: ***The sunset rivalled the sunrise in beauty*** За́хад со́нца сваёй прыгажо́сьцю спабо́рнічаў з усхо́дам

**rivalry** [ˈraɪvəlri] n., pl. **-ries** спаду́жніцтва, супе́рніцтва *n.*, канкурэ́нцыя *f.*

**river** [ˈrɪvər] – n. 1. рэ́чка, ракá *f.* 2. пато́к -у *m.*: ***rivers of blood*** пато́кі крыві́
– adj. рачны́

**riverbank** [ˈrɪvərbæŋk] n. бе́раг, узьбярэ́жжа ракí

**river basin** вадазбо́р -у *m.*, рачны́ басэ́йн

**riverbed** [ˈrɪvərbed] n. рэ́чышча *n.*

**riverhead** [ˈrɪvərhed] n. выто́к ракí; ве́рхняя плынь ракí

**river horse** бэгемо́т, гіпапата́м -а *m.*

**riverine** [ˈrɪvəraɪn] adj. 1. рачны́. 2. прыбярэ́жны, прырэ́чны, узьбярэ́жны: ***a riverine town*** мястэ́чка на рацэ́

**riverside** [ˈrɪvərsaɪd] – n. бе́раг ракі́, узьбярэ́жжа *n.*

– adj. узьбярэ́жны, прырэ́чны: ***The riverside path is much used*** Сьцёжкай на бе́разе ракі́ шмат хто карыста́ецца

**rivet** [ˈrɪvət] – n. пры́пєтка, заклёпка *f.*

– v.t. закляпа́ць

**rivulet** [ˈrɪvjələt] n. руча́|й -ю́ *m.*, ручаlёк -йка́ *m.,*; рачу́лка *f.*

**roach I** [routʃ] n. скаро́т ад ***cockroach*** пруса́к -а́, тарака́н -а́ *m.*

**roach II** [routʃ] n. пло́тка *f.*

**roach III** [routʃ] n., Sl. недаку́рак цыгарэ́ты з марыхуа́най

**road** [roud] n. даро́га *f.*, гасьці́н|ец -ца *m.*: ***country road*** прасёлкавая даро́га, прасёл|ак -ку *m.* 2. шлях -у *m.*: ***a road to peace*** шлях да мі́ру. 3. чыгу́нка *f.* 4. рэйд -а *m.* (*стая́нка караблёў*)

• ***across the road*** праз ву́ліцу

• ***be in the road*** or ***get in one's road*** стая́ць у даро́зе, замiна́ць *каму́*

• ***on the road*** а) у даро́зе. б) у турнэ́

• ***take to the road*** а) е́хаць у даро́гу, пайсьці́ на шыро́кую даро́гу. б) заня́цца разбо́ем, зрабі́цца разбо́йнікам; бадзя́жнічаць

**roadbed** [ˈroudbed] n. даро́жнае палатно́, палатно́ чыгу́нкі

**roadblock** [ˈroudblɑ:k] n. бар'е́р -а *m.*; перашко́да *f.*; загаро́да *f.*

**roadside** [ˈroudsaɪd] – n. край даро́гі, або́чына *f.*

– adj. прыдаро́жны: ***roadside inn*** прыдаро́жны заезны дом, карчма́

**roadstead** [ˈroudsted] n. рэйд -а *m.*

**roam** [roum] – v.i. 1. блука́ць, бадзя́цца, туля́цца. 2. вандрава́ць

– n. туля́ньн|е, швэ́ндаcньне *n.* (*па го́радзе*). 2. вандрава́ньне *n.*

**roar** [rɔ:r] – v.i. 1. раўсьці́, раўці́, ры́каць: ***The lion roared*** Леў заро́ў; ***The crowd roared itself hoarse*** Нато́ўп наро́ўся да хрыпаты́

– n. 1. роў ро́ву *m.* 2. гул -у *m.*: ***roar of laughter*** гул сьме́ху

**roaring** [ˈrɔ:rɪŋ] adj. 1. шу́мны, бу́рны, крыклі́вы. 2. ажы́ўлены, кіпу́чы: ***a roaring business*** кіпу́чы га́ндаль

**roast** [roust] – v.t. 1. сма́жыць, пячы́. 2. пра́жыць. 3. Informal, а) ушано́ўваць ша́ржам, жа́ртамі. б) стро́га, во́стра крытыкава́ць

– v.i. сма́жыцца; пячы́ся

– n. 1. смажані́на, сма́жанка *f.*

– adj. сма́жаны, пе́чаны: ***roast beef*** сма́жаная я́лавічына, ро́стбіф -а *m.*

• ***rule the roast*** задава́ць тон, быць тамадо́й; гаспада́рыць, кірава́ць спра́вай

**roaster** [ˈroustər] n. 1. пра́жальнік -а *m.*, жаро́ўня *f.* 2. ку́рыца для сма́жаньня

**rob** [rɑ:b] v.t., **(-bb)** 1. рабава́ць; абкрада́ць. 2. аднiма́ць, пазбаўля́ць

**robber** [ˈrɑ:bər] n. рабаўні́к -а́ *m.*

**robbery** [ˈrɑ:bəri] n, pl. **-ries** рабу́н|ак -ку, кра|дзе́ж -дзяжу́, лупĺеж -яжу́ *m.*

**robe** [roub] – n. 1. хала́т, шляфро́к -а *m.*, даўга́я, шыро́кая адзе́жына. 2. а) ма́нтыя, то́га *f.*: ***a judge's robe*** судзе́йская то́га. б) мана́ская ма́нтыя. 3. на́кідка *f*., плашч -а́ *m.*, капо́та *f.*

– v. апрана́цца, убіра́цца

**robin** [ˈrɑ:bən] n. зара́нка, малі́наўка *f.*

**robot** [ˈroubɑ:t] n. ро́бат -а *m.*

**robotics** [rouˈbɑ:tɪks] n. робататэ́хніка *f.*

**robust** [rouˈbʌst] adj. здаро́вы, мо́цны, ду́жы

**rock I** [rɑ:k] n. 1. скала́ *f.*; ка́мен|ь -я *m.*, coll. ка́мен|ь -ю *m.* 2. каме́ньне *n.*; Geol. го́рная паро́да. 3. Figur. апо́ра, цьвярды́ня *f.* 4. Sl. дыямэ́нт -а *m.*

• ***on the rocks*** а) Informal разьбі́ты, зруйнава́ны; на мяжы́ руі́ны. б) збанкрутава́ны. в) алькаго́льны напо́й зь лёдам

**rock II** [rɑ:k] – v.i. го́йдацца, гайда́цца, калыха́цца

– v.t. 1. го́йдаць, гайда́ць; калыха́ць: ***The waves rocked the boat*** Хва́лі калыха́лі чо́вен. 2. калыха́ць, люля́ць: ***Mother rocked the baby to sleep*** Ма́ці люля́ла дзіця́тка, каб заснýла

**rock-and-roll** [ˌrɑ:kənˈroʊl] n. рок-н-рол -у *m.*

**rock bottom** найніжэ́йшы пункт

**rock-bottom** [ˌrɑ:kˈbɑ:təm] adj. найніжэ́йшы: ***rock-bottom price*** найніжэ́йшая цана́

**rock-bound** [ˈrɑ:kbaʊnd] adj. абкру́жаны ска́ламі; скалі́сты; по́ўны ска́лаў

**rock candy** цуке́рка-лядзя́ш

**rocker** [ˈrɑ:kər] n. 1. по́лаз -а *m.* (*калы́скі, крэ́сла-кача́лкі*). 2. крэ́сла-кача́лка *n*, кача́лка *f.* 3. рок-музы́ка, ро́кер -а *m.*

**rocket** [ˈrɑ:kət] – n. раке́та *f.*
– v.i. узьлята́ць, як раке́та
– v.t. запуска́ць раке́ту

**rocking chair** крэ́сла-го́йдалка, крэ́сла-калыха́лка

**rocking horse** дзіця́чы ко́нік-го́йдалка

**rock'n'roll** n. *гл.* **rock-and-roll**

**rock oil** n. на́фта *f.*

**rock salt** каме́нная соль

**rocky I** [ˈrɑ:ki] adj. 1. скалі́сты. 2. каме́нны, ска́льны. 3. цьвёрды

**rocky II** [ˈrɑ:ki] adj. 1. хі́сткі, няўсто́йлівы. 2. нерашу́чы. 3. Informal кво́лы, хвараві́ты

**rococo** [rəˈkoʊkoʊ] n. ракако́ (*стыль*)

**rod** [rɑ:d] n. 1. прут -а́ *m.* 2. кій -я́ *m.* 3. Figur. пакара́ньне *n.* 4. вудзі́льна *n.* 5. па́лачка *f.* (*бацы́ла*)
• ***Spare the rod and spoil the child*** Пашкаду́еш кія́ — сапсуе́ш дзіця́

**rode** [roʊd] v., *p.t. of* **ride**

**rodent** [ˈroʊdənt] n. грызу́н -а́ *m.*

**roe** [roʊ] n. ікра́ *f.*

**rogue** [roʊg] n. 1. нягóднік -а, махля́р -а́ *m.*; кру|це́ль -цяля́ *m.* 2. хітру́н -а́ *m.*, шэ́льм|а -ы *m. & f.*, дурасьлі́|вец -ўца *m.* 3. адзін|е́ц -ца *m.*: ***rogue elephant*** слон-адзіне́ц

**rogue state** дзяржа́ва-ізго́й

**role** or **rôle** [roʊl] n. ро́ля *f.*: ***the leading role in the play*** гало́ўная ро́ля ў п'е́се; ***to play an important role in the development of technology*** адыгрываць ва́жную ро́лю ў разьвіцьці́ тэхналёгіі

**roll** [roʊl] – v.i. 1. каці́цца: ***to roll downhill*** скаці́цца з узго́рка. 2. ру́хацца, а) ***The car rolled along*** Прае́хала машы́на. б) ***The years roll on*** Міна́юць гады́. 3. а) кача́цца: ***to roll in mud*** кача́цца ў гразі́. б) скруці́цца: ***The kitten rolled itself into a ball*** Кацяня́тка скруці́лася ў клубо́к. 4. круці́цца; вярце́цца. 5. а) гайда́цца (*пра карабе́ль на мо́ры*). б) хадзі́ць перава́льваючыся, валюха́цца. 6. ракатаць: ***Thunder rolls*** грымо́ты ко́цяцца
– v.t. 1. змо́тваць: ***to roll the string into a ball*** змата́ць ні́ткі ў клубо́к. 2. скру́чваць (*папяро́су*). 3. кача́ць, раска́чваць (*це́ста*)
– n. 1. скру́т|ак -ка, сувó|й -я *m.*; руло́н -а *m.* (*папе́ры, ткані́ны*). 2. ро́кат -у *m.*, ракатáньне *n.* (*бараба́на*); раска́ты *pl.*: ***the roll of thunder*** перака́ты гро́му. 3. рэ́ест|ар -ру *m.*; сьпіс -у *m.*; сьпіс про́зьвішчаў: ***to call the roll*** зачы́тваць про́зьвішчы, рабі́ць пераклі́чку паводле сьпі́су. 4. бу́лачка *f.* 5. гайда́нка *f.* (*на мо́ры*). 6. валюха́ньне *n.*: ***to walk with a roll*** валюха́цца
• ***he is on a roll*** ямý шанцу́е
• ***roll back*** а) адкаці́|ць (-ца) наза́д. б) зьніжа́ць (*цэ́ны, зарпла́ту*) да ране́йшага ўзро́ўню
• ***roll in money,*** Informal купа́цца ў зо́лаце
• ***roll one's r's*** раска́ціста вымаўля́ць гук «р»
• ***roll up*** а) нагрува́шчваць. б) скруці́ць, закаса́ць: ***roll up one's sleeves*** закаса́ць рукавы́, пача́ць працава́ць
• ***strike off the rolls*** вы́красьліць са сьпі́су

**roll call** пераклі́чка, праве́рка прысу́тнасьці

**roller skates** ро́лікі *pl.*

**roller-skate** [ˈroʊlərskeɪt] v.i. е́зьдзіць на ро́ліках

**rolling mill** прака́тны цэх

**rolling pin** кача́лка *f.* (*для це́ста*)

**rolling stock** рухо́мы склад, састáў (*на чыгу́нцы*)

**romaine** [rəˈmeɪn] n. пэкінская салáта
**Roman** [ˈroʊmən] – adj. 1. ры́мскі. 2. ры́мска-каталíцкі. 3. рамáнскі (*стыль*)
– n. 1. ры́млянін -а *m.*, ры́млянка *f.*: ***the ancient Romans*** старажы́тныя ры́мляне
• ***roman*** прóсты шрыфт
**Roman candle** ры́мская сьвéчка (*ад фаерве́рка*)
**Roman Catholic** ры́мска-каталíцкі, каталíцкі (*пра касьцёл і вéрнікаў*)
**romance** [roʊˈmæns] n. 1. рамáн -у *m.*, любóўныя дачынéньні. 2. рамáн -у *m.* (*літаратýрны жанр*). 3. рамáнс -у *m.*
**Romance** [roʊˈmæns] – n. грýпа рамáнскіх мóваў
– adj. рамáнскі
**Romance languages** рамáнскія мóвы
**Roman Empire** Ры́мская Імпэ́рыя
**Romanian** [ruˈmeɪniən] – adj. румы́нскі
– n. 1. румы́н -а *m.*, румы́нка *f.* 2. жыхар Румы́ніі. 3. румы́нская мóва
**Romanic** [roʊˈmænɪk] *гл.* **Romance**
**Roman law** ры́мскае прáва
**Roman nose** ры́мскі
**Roman numerals** ры́мскія лíчбы
**Roman rite** лацíнскі абрáд
**romantic** [roʊˈmæntɪk] – adj. рамантычны
– n. 1. рамáнтык -а *m.* (*рамантычная асóба*). 2. рамáнтык -а *m.* (*пасьлядóўнік рамантызму*). 3. летуцéньнік -а *m.*
**romp** [rɑːmp] v.i. 1. гóцаць, гóйсаць; куля́цца. 2. лёгка выйгравáць: ***to romp in*** зь лёгкасьцю дабéгчы да мэ́ты, вы́йграць
**rompers** [ˈrɑːmpərz] n. дзіця́чы камбінэзóнчык -а *m.*
**roof** [ruːf] n., pl. **roofs** *or* **rooves** 1. страхá *f.*, дах -у *m.* 2. верх -у *m.*: ***the roof of a car*** верх машы́ны; ***the roof of the mouth*** паднябéньне *n.* 3. Figur. дом -у *m.*: ***to live together under the same roof*** жыць рáзам пад аднóй страхóй
**roofer** [ˈruːfər] n. страхáр, дахаўшчы́к -á *m.*
**roofing** [ˈruːfɪŋ] n. дáхавае пакрыцьцё (*гóнты, шы́фэр*)
**roofless** [ˈruːfləs] adj. 1. без страхí. 2. бяздóмны, беспрытýльны
**rook I** [rʊk] – n. 1. грак -á *m.* (*птýшка*). 2. Sl. шýлер -а, махля́р -á *m.*
– v.t., Sl. махлявáць, ашýкваць
**rook II** [rʊk] n. турá *f.* (*у шáхматах*)
**rookie** or **rooky** [ˈrʊki] n. **-kies** Informal 1. недасьвéдчаны рэ́крут. 2. навічlóк -кá *m.*
**room** [ruːm] – n. 1. пакólй -я *m.* 2. аўдытóрыя, пýбліка *f.* 3. мéсца *n.*: ***There is room for one more in the car*** У машы́не ёсьць мéсца яшчэ́ для аднагó. 4. магчы́масьць, прастóра для дзéяньня: ***I see room for improvement*** Я бáчу магчы́масьці для ўдасканáленьня
– v. 1. кватаравáць. 2. разьмяшчáць па пакóях
• ***rooms,*** pl. кватэ́ра *f.*, памéшканьне *n.*
**roomer** [ˈruːmər] n. кватарáнт -а *m.*, кватарáнтка *f.*
**rooming house** дом з мэблявáнымі пакóямі для арэ́нды
**roommate** [ˈruːmmeɪt] n. сусéд па пакóі
**roomy** [ˈruːmi] adj. прастóрны, умяшчáльны
**roost** [ruːst] – n. сéдала *n.*, курасáдка *f.*
– v.t. ісьцí на сéдала
• ***come home to roost*** адівáцца, адры́гвацца, вяртáцца бумэрáнгам
• ***go to roost*** ісьцí адпачывáць
**rooster** [ˈruːstər] n. пéвень пéўня *m.*
**root I** [ruːt] – n. 1. карlэ́нь -аня́, кóранlь -я *m.* 2. Figur. прычы́на, крынíца *f.* : ***The love of money is the root of all evil*** Прáга грóшай — кóрань зла. 3. істóтная чáстка, сýтнасьць *f.* 4. Math. кóранlь -я *m.*: ***square root*** квадрáтны кóрань. 8. Gram. кóранlь -я *m.* (*слóва*)
– v.i. 1. пускáць каранí, прымáцца (*пра расьлíну*). 2. укараня́цца, прыжывáцца, закараня́цца (*пра звы́чку*)
– v.t. 1. выкараня́ць, выкарчóўваць: ***to root out corruption*** вы́караніць карýпцыю. 2. Figur. прыкóўваць: ***Fear rooted him to the spot*** Страх прыкавáў ягó да мéсца

*• **take root*** а) пусьціць карані, прыняцца (*пра расьліну*). б) закараніцца, акліматызавацца; асесьці (*пасяліцца*)

**root II** [ru:t] v. 1. рыц|ь (-ца) (*лычом*): ***Pigs like to root in the garden*** Сьвіньні любяць рыцца ў гародзе. 2. Figur. вышукваць, вывуджваць

**root III** [ru:t] v.i. Informal хварэць, заўзець, гучна падтрымваць: ***The fans root for their favorite team*** Заўзятары хварэюць за сваю каманду

**rooted** [ˈru:təd] adj. закарэнены: ***deeply rooted*** глыбока закарэнены

**rootless**[ˈru:tləs] adj. бескарэнны; неўкарэнены

**rootlet** [ˈru:tlət] n. карэнчык -а *m.*

**rope** [roʊp] – n. 1. вяроўка *f.*, канат -а *m.* 2. аркан -а *m.*; ласо, *indecl.* 3. нізка *f.* 4. зашмарга, пятля *f.* 5. павешаньне *n.*

– v.t. 1. прывязваць, зьвязваць вяроўкай. 2. абводзіць вяроўкай. 3. заарканьваць. 4. згушчаць, рабіць цягучым

*• **a rope of onions*** вянок цыбулі

*• **give one rope,*** Informal даць свабоду дзеяньня

*• **know the ropes,*** Informal ведаць усе хады і выхады

*• **reach the end of one's rope*** вычарпаць усе свае магчымасьці

*• **rope in*** завабіць, уцягнуць падманам

**ropy** [ˈroʊpi] adj. 1. цягучы. 2. як вяроўка

**rosary** [ˈroʊzəri] n., pl. **-ries** 1. ружан|ец -ца *m.* 2. ружоўнік -у *m.*

**rose I** [roʊz] – n. 1. ружа *f.* 2. ружовы колер

– adj. ружовы

**rose II** [roʊz] v. *p.t. of* **rise**

**rosebud** [ˈroʊzbʌd] n. пупышка, бутон ружы

**rose hip** плод шыпшыны

**rose leaf** пялёстак ружы

**rosemary** [ˈroʊzˌmeri] n., pl. **-maries**, Bot. размарын -у *m.*

**rosette** [roʊˈzet] n. разэта, разэтка *f.*

**rosin** [ˈrɑ:zɪn] – n. 1. жывіца, смала *f.* 2. каніфоля *f.*

– v.t. націраць каніфоляй

**rosy** [ˈroʊzi] adj. 1. ружовы; румяны. 2. Figur. сьветлы, радасны: ***a rosy future*** сьветлая будучыня

**rot** [rɑ:t] – v.i. **(-tt-)** 1. гнісьці, гніць. 2. трухлець, парахнець. 3. псавацца (*пра зубы*)

– v.t. 1. гнаіць, псаваць: ***So much rain will rot the fruit*** Ад такіх частых дажджоў садавіна пагніе. 2. мачыць (*лён*). 3. раскладацца

– n. 1. гніцьцё, гнiеньне *n.* 2. гніль *f.*, трухно, парахно *n.* 3. Informal лухта, бязглузьдзіца *f.*

– interj. лухта! глупства!

**rotary** [ˈroʊtəri] adj. 1. вярчальны: ***rotary movement*** вярчальны рух. 2. ратацыйны: ***rotary engine*** ратацыйны рухавік

**rotate** [ˈroʊteɪt] v. 1. круці|ць (-ца), вярцецца, варочацца. 2. чаргава|ць (-ца): ***Farmers rotate crops*** Гаспадары практыкуюць севазварот

**rotation** [roʊˈteɪʃən] n. 1. вярчэньне *n.* 2. ратацыя *f.*, чаргаваньне *n.*

*• **in rotation*** пераменна; на зьмену; па чарзе

**rotation of crops** севазварот -у *m.*

**rotten** [ˈrɑ:tən] adj. 1. гнілы, сапсаваны: ***a rotten egg*** тухлае яйка. 2. кепскі: ***rotten air*** кепскае паветра. 3. нямоцны; слабы: ***rotten ice*** слабы лёд. 4. Figur. несумленны. 5. Sl. паскудны, пагâны: ***I feel rotten*** Я паскудна чуюся

**rottenness** [ˈrɑ:tənnəs] n. гніласьць, сапсаванасьць *f.*

**rotunda** [roʊˈtʌndə] n. ратонда *f.*

**rouble** *or* **ruble** [ˈru:bəl] n. рубл|ель -ля *m.* (*грашовая адзінка*)

**rouge** [ru:ʒ] – n. румяны *pl.*, памада *f.*

– v. падмалёўваць; падмалёўвацца

**rough** [rʌf] – adj. 1. няроўны, шурпаты: ***rough boards*** шурпатыя дошкі. 2. неадшліфаваны: ***rough diamonds*** неадшліфаваныя дыямэнты. 3. суворы: ***rough life*** простае суворае жыцьцё. 4. грубы, неапрацаваны: ***a***

***rough drawing*** накід малюнка; ***a rough copy*** чарнавік -á *m.*
– n. грубіян, буян -а *m.*
– v. 1. рабіць няроўным, шурпатым. 2. грубіяніць, буяніць
• ***in the rough*** неапрацаваны
• ***rough it*** абыходзіцца без выгодаў
• ***rough manners*** грубыя манеры
• ***rough road*** няроўная, выбоістая, калдобістая дарога
• ***rough sea*** бурлівае мора
• ***rough weather*** непагадзь *f.*, дрэннае надвор'е
• ***rough work*** чорная, фізычная праца

**rough-and-tumble** [ˌrʌfənˈtʌmbəl] – adj. бязладны; буйны
– n. тузаніна, валтузьня, бойка *f.*

**roughen** [ˈrʌfən] – v.t. рабіць шурпатым, няроўным
– v.i. 1. шурпаціцца. 2. узбурвацца, усхвалёўвацца (*пра мора*)

**roughly** [ˈrʌfli] adv. 1. рэзка, груба. 2. прыблізна; больш-менш, з большага

**roughneck** [ˈrʌfnek] n., Informal 1. грубіян, буян -а *m.*, нявыхаваны чалавек. 2. работнік на нафтаздабычы

**roughness** [ˈrʌfnəs] n. 1. няроўнасьць, шурпатасьць, шорсткасьць *f.* 2. грубіянства *n.*, грубасьць *f.*

**Roumanian** *гл.* **Romanian**

**round** [raʊnd] – adj. 1. круглы. 2. тоўсты, поўны: ***He was short and round*** Ён быў нізкі й поўны. 3. кругавы. 4. цэлы, поўны, круглы: ***a round dozen of eggs*** цэлы тузін яек; ***a round sum of money*** круглая сума грошай; ***round number*** а) цэлы лік. б) круглая лічба. 5. прыблізны, акруглены
– n. 1. кола *n.*, сфэра *f.*, шар -а *m.* 2. абыход -у *m.* (*вартавога*). 3. абарот -у *m.*: ***the earth's yearly round*** гадавы абарот зямлі. 4. тур, раўнд -у *m.* 5. залп, салют -у *m.* 6. кумпяк ялавічыны
– v.t. 1. акругляць; рабіць круглым. 2. абыходзіць, аб'яжджаць *або* абплываць
– adv. 1. наўкол, навокал 2. у акружнасьці: ***The ball measures one meter round*** Мяч акружнасьцю адзін мэтар. 3. акружной дарогай, наўкруга: ***We went round on our way home*** Вяртаючыся дамоў, мы пайшлі акружной дарогай
– prep. навокал, вакол: ***Bullets whistled round him*** Вакол яго сьвісталі кулі; ***round the world*** вакол сьвету
• ***all the year round*** круглы год
• ***go the round*** разыходзіцца, разносіцца (*пра весткі, чуткі*)
• ***make*** or ***go the rounds*** рабіць абыход
• ***round off*** or ***out*** а) закончыць: ***to round off the evening with a dance*** закончыць вечар танцамі. б). закругляць
• ***round on (upon)*** накінуцца, паўстаць супраць, закідаць папрокамі
• ***round up*** зганяць, зьбіраць

**roundabout** [ˈraʊndəˌbaʊt] adj. акружны, абыходны, вакольны: ***a roundabout route*** абыходны шлях; ***I heard it in a roundabout way*** Гэта дайшло да мяне акружным шляхам

**rounded** [ˈraʊndɪd] adj. 1. закруглены. 2. акруглены (*лік*)

**roundish** [ˈraʊndɪʃ] adj. круглаваты, круглявы

**roundly** [ˈraʊndli] adv. 1. кругла. 2. адкрыта; станоўка, рэзка: ***to refuse roundly*** станоўка адмовіць; ***to scold roundly*** рэзка зганіць, намыліць шыю

**round table** круглы стол

**Round Table** круглы стол караля Артура

**round trip** падарожжа туды й назад

**roundup** [ˈraʊndʌp] n. 1. згон у статак, аблава *f.* 2. зьезд -у *m.*, сустрэча *f.* (*напр. старых сяброў*). 3. агляд (*навінаў і інш.*)

**roup** [ruːp] n. 1. хрыпота *f.* 2. катар -у *m.*

**rouse** [raʊz] – v.t. 1. будзіць: ***I was roused by the ring of the telephone*** Мяне разбудзіў званок тэлефона. 2. пабуджаць, узбуджаць, узьнімаць: ***He was roused to anger by the insult*** Абраза раззлавала яго

– n. пад'ём -у *m.*

**rousing** [ˈraʊzɪŋ] adj. 1. натхня́льны, які́ стымулю́е: ***a rousing speech*** натхня́льная прамо́ва. 2. пабуджа́льны: ***a rousing response*** жывы́ во́дгук. 3. узбуджа́льны. 4. Informal абура́льны: ***a rousing lie*** абура́льная мана́

**rout I** [raʊt] – n. 1. пара́за *f.*; хаатычныя ўцёкі, разгро́м -у *m.* 2. нато́ўп; збро́д -у *m.*; бунтаўнікі́ *pl.* 3. бунт -у *m.*; забурэ́ньне *n.* 4. сьві́та *f.*, по́ч|ат -ту *m.*
– v.t. разьбі́ць ушчэ́нт, разграмі́ць; пагна́ць

**rout II** [raʊt] – v.t. 1. выко́пваць, выцяга́ць. 2. успо́рваць: ***The farmer routed his sons out of bed at five o'clock*** Фэ́рмэр успаро́ў сыно́ў з ло́жка а пя́тай гадзі́не. 3. рыць (*лычо́м*)
– v.i. ко́рпацца, ры́цца

**route** [ru:t] n. 1. даро́га *f.* 2. шлях -у *m.*

**routine** [ˌru:ˈti:n] – n. 1. завядзёнка, руты́на *f.*, усталява́ны пара́дак, шаблён -у *m.* 2. станда́ртны сцэні́чны ну́мар (*выступле́ньне ў сваі́м амплюа́*)
– adj. звы́клы, прыня́ты

**rove** [roʊv] v.i. вандрава́ць, блука́ць, бадзя́цца: ***to rove over the fields and woods*** бадзя́цца па палёх і лясо́х

**rover I** [ˈroʊvər] n. вандро́ўнік -а *m.*, бадзя́г|а -і *m. & f.*

**rover II** [ˈroʊvər] n. 1. піра́т -а *m.* 2. піра́цкі карабе́ль

**row I** [roʊ] n. 1. рад -у *m.*: ***a row of trees*** рад дрэ́ваў. 2. шэ́раг -у *m.*
• ***hard row to hoe*** цяжко́е зада́ньне; цяжко́е жыцьцё
• ***in a row*** у рад, у лінэ́йку, шэ́рагам

**row II** [roʊ] – v.i. вeслава́ць
– n. вeслава́ньне *n.*
• ***row up (to)*** падплыва́ць чаўно́м

**row III** [roʊ] – n. сва́рка, спрэ́чка *f.*; сканда́л -у *m.*
– v.i. сварыцца, спрача́цца

**rowan** [ˈroʊən] n. рабі́на *f.*

**rowboat** [ˈroʊboʊt] n. веслава́я ло́дка, чо́вен

**rowdy** [ˈraʊdi] – n., pl. **-dies** задзіра́к|а, задзі́р|а -ы *m.*, сварлі́|вец -ўца *m.*
– adj. грубія́нскі, сварлі́вы, задзі́рлівы, задзі́рысты

**rower** [ˈroʊər] n. вясьля́р весьляра́ *m.*

**rowing** [ˈroʊɪŋ] n. вeслава́ньне *n.*

**royal** [ˈrɔɪəl] adj. 1. каралеўскі: ***the royal family*** каралеўская сям'я́: ***royal power*** каралеўская ўла́да. 2. Figur. пы́шны, каралеўскі. 3. высакаро́дны: ***royal metals*** высакаро́дныя мэта́лы

**royal blue** васільско́вы ко́лер

**royalty** [ˈrɔɪəlti] n., pl. **-ties** 1. асо́ба каралеўскага ро́ду. 2. каралеўская ўла́да, каралеўскае пра́ва. 3. каралеўскасьць, шляхо́тнасьць, высакаро́днасьць *f.* 4. каралеўства *n.* 5. ганара́р -у *m.*

**RSVP** or **R.S.V.P.** [ˌɑ:resvi:ˈpi:] (répondez s'il vous plaît, *фр.*) калі́ ла́ска адкажэ́це

**rub** [rʌb] – v.t. 1. це́рці; шарава́ць: ***Rub your hands to warm them*** Трэ́це ру́кі, каб сагрэ́ць іх. 2. націра́ць: ***The nurse rubbed his back*** Медсястра́ наце́рла яму́ пле́чы. 3. му́ляць, (*пра абу́так*)
– n. 1. трэ́ньне, цярцё, націра́ньне *n.* 2. наму́ленае *або́* нацёртае ме́сца. 3. Figur. замі́нка, за́гваздка *f.*: ***There is the rub*** Тут і за́гваздка
• ***rub down*** націра́ць, масажава́ць
• ***rub it in,*** Informal дапяка́ць
• ***rub off*** сьціра́ць
• ***rub the right way*** гла́дзіць па шэ́рсьці
• ***rub the wrong way*** гла́дзіць супро́ць шэ́рсьці

**rubber** [ˈrʌbər] – n. 1. гу́ма *f.*, каўчу́к -у́ *m.* 2. гу́мка, сьці́рка *f.*
– adj. гумо́вы, гу́мавы; каўчу́кавы
• ***rubbers*** галёшы

**rubber stamp** гумо́вая пяча́тка, штэ́мп|эль -пля *m.*

**rubber-stamp** [ˌrʌbərˈstæmp] v.i. 1. ста́віць штэ́мпэль, прыклада́ць пяча́тку, штэмплява́ць. 2. Informal зацьвярджа́ць аўтаматы́чна, бязду́мна

**rubber tree** каўчу́кавае дрэ́ва

**rubbish** [ˈrʌbɪʃ] n. 1. хлам -у *m.*, адкіды *pl.*, сьмéцьце *n.* 2. лухтá *f.*; дурнінá, дрэнь *f.*
**rubble** [ˈrʌbəl] n. друз -у *m.*
**rubdown** [ˈrʌbdaʊn] n. націрáньне *n.*, масáж -ý *m.*
**ruble,** *гл.* **rouble**
**ruby** [ˈru:bi] – n., pl. **-bies** 1. рубíн -у *m.* 2. рубíнавы кóлер
– adj. рубíнавы: ***ruby lips*** рубíнавыя вýсны
**ruck I** [rʌk] n. гурт, натóўп -у *m.*; стáт|ак -ку *m.*
**ruck II** [rʌk] – n. 1. склáдка, фáлда, збóрка *f.* 2. змóршчына *f.* (*у вóпратцы*)
– v.t. 1. рабíць фáлды, склáдкі. 2. мóршчыць, кóмчыць (*спаднíцу*)
**rucksack** [ˈrʌksæk] n. заплéчнік -а *m.*, рукзáк -á *m.*
**rudder** [ˈrʌdər] n. стырнó *n.*
**ruddy** [ˈrʌdi] adj. 1. чырванавáты. 2. румя́ны: ***ruddy cheeks*** румя́ныя шчóкі
**rude** [ru:d] adj. 1. нявéтлівы, рэ́зкі, грýбы. 2. неапрацавáны, неабрóблены; прóсты, прымітыўны: ***a rude sketch*** грýбы нáкід; ***rude tools*** прымітыўныя прылáды. 3. жóрсткі, люты. 4. рэ́зкі, пранíзьлівы (*пра гук*). 5. прымітыўны. 6. мóцны, дýжы: ***rude health*** мóцнае здарóўе; ***rude strength*** дýжы
**rudely** [ˈru:dli] adv. 1. нявéтліва, грýба. 2. жóрстка, люта. 3. прымітыўна
**rudeness** [ˈru:dnəs] n. 1. грýбасьць, непрыстóйнасць *f.* 2. жóрсткасьць, сурóвасьць *f.*
**rudiments** [ˈru:dɪmənts] n., pl. пачáткі, аснóвы *pl.*: ***the rudiments of grammar, mathematics*** аснóвы грамáтыкі, матэмáтыкі. 2. пачáт|ак, зачáт|ак -ку *m.* 3. Biol. зачáткі óргана
**rudimentary** [ˌru:dɪˈmentəri] adj. 1. пачаткóвы, элемэнтáрны. 2. у зачáткавай стáдыі; неразьвíты, рудымэнтáрны
**rue I** [ru:] v.t. кáяцца, шкадавáць
**rue II** [ru:] n., Bot. рýта *f.* (*духмя́ная*)
**rueful** [ˈru:fəl] adj. 1. маркóтны, тужлíвы, сýмны: ***a rueful expression*** маркóтны, сýмны вы́раз (*твáру*). 2. пóўны жáлю, жáласны: ***a rueful sight*** жáласнае відóвішча
**ruffian** [ˈrʌfiən] – n. галаварэ́з, хулігáн -а *m.*, бандзюг|а -і *m. & f.*
– adj. хулігáнскі, банды́цкі
**ruffle I** [ˈrʌfəl] – v.t. 1. рабацíць, мóршчыць (*вадý*). 2. натапы́рваць, ашчацíньваць (*поўсьць, пéр'е*): ***The hen ruffled her feathers at the sight of the dog*** Куры́ца натапы́рыла пéр'е, пабáчыўшы сабáку. 3. зьбірáць у склáдкі. 4. упрыгóжваць фальбóнамі. 5. вывóдзіць з раўнавáгі, злавáць: ***Nothing can ruffle her calm temper*** Ніштó ня мóжа вы́весьці яé з раўнавáгі. 6. тасавáць (*кáрты*)
– n. 1. рабізнá *f.* (*на вадзé*); змóршчыны *pl.* 2. фальбóна *f.* 3. мітусьня́, сумятня́ *f.*: ***without ruffle or excitement*** безь мітусьні ці хвалявáньня
**ruffle II** [ˈrʌfəl] n. барабáнны дрóбат, пóшчак
**rug** [rʌg] n. 1. дывáн -á *m.*, кілíм -а *m.* 2. плед -а *m.*
**rugby** [ˈrʌgbi] n. рэ́гбі *indecl.*
**rugged** [ˈrʌgɪd] adj. 1. нярóўны; нягладкі, шурпáты: ***rugged road*** выбóістая дарóга. 2. мóцны, здарóвы; трывýшчы. 3. грýбы, загрубéлы. 4. сувóры: ***rugged times*** цяжкíя часы́. 5. грýбы, нявéтлівы: ***rugged manners*** грýбыя манéры. 6. непагóдны, непагóдлівы: ***rugged weather*** нéпагадзь *f.* 7. пранíзьлівы (*пра гук*)
**ruin** [ˈru:ɪn] – n. 1. развáліна *f.*, руíны *pl.*: ***The ruins of an ancient castle*** Руíны старажы́тнага зáмку. 2. згýба, загýба, пагíбель *f.*; упáд|ак -ку, заняпáд -у *m.*: ***His enemies planned the duke's ruin*** Вóрагі князя планавáлі ямý загýбу; ***Drinking was his ruin*** П'я́нства былó ягóнай згýбай. 3. руíна *f.*: ***The house had gone to ruin*** Дом дайшóў да стáну руíны. 4. банкрýцтва *n.*
– v.t. 1. давóдзіць да руíны, руйнавáць; разбурáць; глумíць. 2. давóдзіць да галéчы, да банкрýцтва

– v.i. руйнава́цца, банкрутава́ць

**ruination** [ˌru:ɪˈneɪʃən] n. зруйнава́ньне, зьнішчэ́ньне, разбурэ́ньне *n.*; давядзе́ньне да гале́чы

**ruinous** [ˈru:ɪnəs] adj. 1. згу́бны; зьнішча́льны, разбура́льны. 2. зруйнава́ны, разва́лены, разбу́раны

**rule** [ru:l] – n. 1. пра́віла *n.*: ***rules of the game*** пра́вілы гульні́; ***the rules of the road*** пра́вілы даро́жнага ру́ху. 2. пастано́ва су́ду. 3. стату́т -у *m.* 4. ула́да *f.*, кірава́ньне *n.*: ***In a democracy the people have the rule*** У дэмакра́тыі кіру́е наро́д. 5. ліне́йка *f.* (*для ме́раньня*)

– v.i. 1. устанаўля́ць пра́віла. 2. выраша́ць, пастанаўля́ць: ***The judge ruled against them*** Судзьдзя́ вы́рашыў супро́ць іх. 3. кірава́ць, валада́рыць, панава́ць, мець ула́ду. 4. ліне́іць, разьліне́йваць

• ***as a rule*** звыча́йна, як пра́віла

• ***rule out*** выключа́ць

**ruler** [ˈru:lər] n. 1. ўлада́р, валада́р -а́ *m.*, кіраўні́к дзяржа́вы. 2. ліне́йка *f.*

**ruling** [ˈru:lɪŋ] – n. 1. пастано́ва су́ду, судо́вая пастано́ва. 2. ліне́йкі (*на папе́ры*)

– adj. 1. які́ ма́е ўла́ду, кіру́е дзяржа́вай, кіру́ючы. 2. які́ пераважа́е, перава́жны; найбо́льш пашы́раны

**rum I** [rʌm] n. ром -у *m.*

**rum II** [rʌm] adj. Sl. дзіўны́, дзівакава́ты, дзіва́цкі

**Rumanian** *гл.* **Romanian**

**rumble** [ˈrʌmbəl] – v.i. 1. груката́ць, грукаце́ць, туркаце́ць, тарахце́ць. 2. бурчэ́ць, вурчэ́ць

– n. 1. гру́кат -у *m.*, грукатня́ *f.* 2. бурчэ́ньне *n.*

**ruminant** [ˈru:mɪnənt] – n. жва́чная жывёла

– adj. 1. жва́чны. 2. Figur. сузіра́льны, задуме́нны

**ruminate** [ˈru:mɪneɪt] – v.t. 1. перажо́ўваць е́жу; жава́ць жва́чку. 2. Figur. разду́мваць, абду́мваць, разжо́ўваць: ***He ruminated on the strange events of the past week*** Ён развaжа́ў пра незвыча́йныя падзе́і міну́лага ты́дня

– v.i. сузіра́ць

**rumination** [ˌru:mɪˈneɪʃən] n. 1. перажо́ўваньне *n.* 2. развaжа́ньні, ро́здум -у *m.*, сузіра́ньне *n.*

**ruminative** [ˈru:mɪnətɪv] adj. сузіра́льны; схі́льны да ро́здуму, разду́млівы

**rummage** [ˈrʌmɪdʒ] – v. 1. ры́цца; ко́рпацца, шны́парыць. 2. перaтраса́ць. 3. выграба́ць, выця́гваць

– n. перaтру́с -у *m.*, перaтраса́ньне *n.*

**rummage sale** распро́даж ахвярава́ных рэ́чаў для дабрачы́нных мэ́таў

**rumor**, Brit. **rumour** [ˈru:mər] – n. чу́тка, пагало́ска *f.*

– v.t. пуска́ць чу́ткі

**rump** [rʌmp] n. 1. зад -а *m.* (*у жывёліны*), аза́д|ак -ка *m.* (*у жывёліны й чалаве́ка*). 2. задо́к ту́шы. 3. а) неісто́тная рэ́шта, аста́ча *f.* б) меншыня́ палітычнага о́ргану пасьля́ раско́лу

**rumpbone** [ˈrʌmpboʊn] n. крыжава́я косьць

**rumple** [ˈrʌmpəl] – v.t. камя́чыць; кудла́ціць

– n. змо́ршчына *f.* (*на во́пратцы*)

**rumpus** [ˈrʌmpəs] n. кры́кі *pl.*; га́лас, шум -у *m.*; сумятня́ *f.*; гармі́дар, вэ́рхал -у *m.*

**run** [rʌn] – v., **ran, run, running** 1. бе́гчы, бе́гаць. 2. уцяка́ць. 3. ісьці́, е́хаць: ***This train runs to Miensk*** Гэ́ты цягні́к е́дзе ў Менск. 4. гнаць, ганя́ць: ***to run a fox*** гна́ць ліс́у. 5. цягну́цца, прасьціра́цца: ***Shelves run along the wall*** Палі́цы ідуць уздо́ўж сьце́наў. 6. цячы́, выцяка́ць: ***My nose runs*** У мяне́ цячэ́ з но́са; ***The well ran dry*** Сту́дня вы́сахла. 7. кандыдава́ць: ***He is running for president*** Ён кандыду́е на прэзыдэ́нта. 8. праця́гвацца: ***The lease runs for seven years*** Арэ́нда дзе́йная на працягу́ ся-мі́ гадо́ў. 9. пуска́ць фа́рбу: ***The color ran when the dress was washed*** Суке́нка пусьці́ла фа́рбу ў ча́се

мыцьця́. 10. заганя́ць: ***He ran a splinter into his finger*** Ён загна́ў стрэ́мку ў па́лец. 11. заганя́ць, заво́дзіць: ***Run the car into garage*** Загані́ а́ўта ў гара́ж. 12. прарыва́ць, прабіва́цца: ***to run the blockade*** прарва́цца праз бляка́ду
– n. 1. бег -у *m.* 2. прабе́г ча́су, час трыва́ньня: ***During a run of eight hours the factory produced 50 cars*** За во́сем гадзі́наў пра́цы фа́брыка вы́прадукавала 50 машы́наў. 3. каро́ткая пае́здка, прахо́дка: ***quick run to the store*** падско́чыць у кра́му. 4. хада́ *f.*: ***the run of events*** хада́ падзе́яў; ***This play had a two-year run*** Гэ́тая п'е́са йшла́ два гады́, 5. рэйс -у *m.* 6. плынь *f.*, цёк -у *m.* 7. заго́н -у *m.* 8. наплы́|ў -ву *m.* 9. тор, трэк -у *m.*, каля́іна *f.* 10. спуск -у *m.*: ***a run in a stocking*** спу́шчанае во́чка ў панчо́се ***a run for one's money*** а) мо́цная канкурэ́нцыя, цяжкі́я намага́ньні. б) задавальне́ньне адпаве́днае ўкла́ду
• ***in the long run*** у канцы́, канчатко́ва, урэ́шце, у канчатко́вым вы́ніку, з ча́сам
• ***on the run*** а) на бягу́, ху́тка. б) на ўцёках
• ***run a business*** ве́сьці спра́ву, прадпрые́мства
• ***run a horse*** гнаць каня́
• ***run a risk*** рызыкава́ць, ісьці́ на ры́зыку
• ***run across*** выпадко́ва сустрэ́ць *каго́*, наткну́цца на *каго́*
• ***run away*** уцячы́, зьбе́гчы
• ***run down*** а) спыні́цца, пераста́ць працава́ць. б) зьбіць з ног у бе́гу. в) зьнясі́ліцца; занядужаць. г) прыніжа́ць, зьнеслаўля́ць. д) занепада́ць, хілі́цца да ўпа́дку
• ***run in*** а) Sl. пасадзі́ць у турму́. б) забе́гчыся, заско́чыць да *каго́* (*ненадо́ўга*)
• ***run into*** а) натыкну́цца на *каго́* (*выпадко́ва*). б) урэ́зацца, сутыкну́цца з *кім-чым*: ***The truck ran into a car*** Грузаві́к урэ́заўся ў а́ўтамашы́ну. в) упіра́цца ў *што*: ***The street runs into the park*** Ву́ліца ўпіра́ецца ў парк
• ***run into debt*** зале́зьці ў даўгі́
• ***run off*** а) аддрукава́ць, вы́друкаваць; адбіва́ць, рабі́ць ко́піі. б) уцяка́ць. в) сьцяка́ць
• ***run out*** канча́цца (*пра тэ́рмін, запа́сы*)
• ***run out of*** вы́чарпаць (*запа́с*), вы́чарпацца
• ***run over*** а) перае́хаць *што*, нае́хаць на *што*: ***The car ran over a chicken*** А́ўта перае́хала ку́рыцу. б) пераліва́цца празь верх. в) бе́гла прагле́дзець
• ***Time runs on*** Час міна́е

**runaway** [ˈrʌnəˌweɪ] n. 1. бягля́к, бягу́н бегуна́ *m.*; уцяка́ч уцекача́ *m.* 2. уцёкі *pl. only*

**rundown** [ˈrʌndaʊn] n., Informal каро́ткі перака́з зьме́сту, пералі́к -у *m.*

**run-down** [ˌrʌnˈdaʊn] adj. 1. змо́раны, зьнямо́жаны. 2. запу́шчаны. 3. зно́шаны

**rung I** [rʌŋ] v. *гл.* **ring II**

**rung II** [rʌŋ] n. 1. папярэ́чка *f.*; пры́ступка *f.* (*драбі́ны*). 3. сьпі́ца *f.* (*ко́ла*)

**runner** [ˈrʌnər] n. 1. бягу́н бегуна́ *m.*, удзе́льнік спабо́рніцтваў у бе́гу. 2. пасланЇе́ц, ганЇе́ц -ца́ *m.* 3. по́лаз -а *m.* (*са́няў*). 4. лязо́ *n.* (*канька́*). 5. палаві́к -а́ *m.*, даро́жка *f.* 6. кантрабанды́ст -а *m.*; кантрабанды́сцкі вадапла́ў. 7. па́растак паўзу́чай расьлі́ны, ато́жылЇак -ка *m.*

**running** [ˈrʌnɪŋ] – n. 1. бе́ганьне *n.*, бег -у *m.* 2. бегані́на *f.*
– adj. 1. гно́йны (*пра ра́ну*). 2. які́ цячэ́. 3. цяку́чы, бягу́чы: ***running water*** бягу́чая вада́. 4. безупы́нны, бесьперапы́нны: ***a running commentary*** суправаджа́льны камэнта́р. 5. бягу́чы: ***the running month*** бягу́чы ме́сяц. 6. пасьлядо́ўны: ***for three nights running*** тры но́чы за́пар. 7. паўзу́чы; паво́йны, вітко́вы (*пра расьлі́ну*)

***• be in the running*** быць яшчэ́ ў гульні́, мець шанс вы́йграць
***• running a business*** вядзе́ньне спра́вы, бізнэсу
**running mate** а) сукандыда́т на стано́вішча засту́пніка. б) сукандыда́т. в) кампаньён у бе́гу
**runway** [ˈrʌnweɪ] n. 1. узьлётна-паса́дачная паласа́. 2. сьце́жка да вадапо́ю. 3. рэ́чышча *n.* 4. по́дыюм -у *m.* (*для манэке́ншчыкаў*)
**rupture** [ˈrʌptʃər] – n. 1. разры́ў -ву *m.* 2. кіла́, гры́жа *f.*
– v.i. разрыва́цца, ло́пацца
**rural** [ˈrurəl] adj. вяско́вы, се́льскі, прасёлкавы: ***rural road*** прасёлкавая даро́га; ***rural economy*** се́льская гаспада́рка; ***rural population*** се́льскае жыха́рства
**ruse** [ru:s] n. хі́трыкі *pl.*, вы́крут -у *m.*
**rush I** [rʌʃ] – v.i. 1. сьпяша́цца; імча́цца, не́сьціся. 2. дзе́яць пасьпе́шліва; хапа́цца: ***He rushes into things without knowing anything about them*** Ён хапа́ецца за спра́вы, нічо́га пра іх ня ве́даючы. 3. кі́дацца: ***The crazed man rushed at the doctor*** Вар'я́т кі́нуўся на ле́кара. 4. прыліва́ць; хлы́нуць: ***Blood rushed to his face*** Кроў уда́рыла яму́ ў твар
– v.t. 1. ры́нуцца, гна́ць, бра́ць шту́рмам: ***They rushed the enemy*** Яны́ ры́нуліся на во́рага. 2. тэрміно́ва выко́нваць: ***Rush this order, please!*** Калі ла́ска, тэрміно́ва вы́канайце гэ́тую замо́ву! 3. рабі́ць пасьпе́шліва: ***The sick child was rushed to the hospital*** Хво́рае дзіця́ пасьпе́шліва заве́зьлі ў шпіта́ль. 4. падганя́ць: ***Don't rush me*** Не падганя́й мяне́
– n. 1. імклі́вы рух, напо́р -у *m.*: ***the rush of the flood*** імклі́вы напо́р паво́дкі. 2. сьпе́шка *f.*, сьпех -у *m.*: ***The rush of city life*** Сьпех гарадзко́га жыцьця́; ***The Christmas rush*** Перадкаля́дная мітусьня́; ***the gold rush*** залата́я ліхама́нка
– adj. сьпе́шны, тэрміно́вы: ***A rush order*** Сьпе́шная замо́ва
***• with a rush*** ху́тка, імклі́ва, пасьпе́шліва
**rush II** [rʌʃ] n. 1. чаро́т -у *m.* 2. драбязá *f.*
**rush hour** гадзі́ны пік
**rushy** [ˈrʌʃi] adj. 1. паро́слы чаро́там. 2. зро́блены з чаро́ту, чаро́тавы: ***rushy roof*** чаро́тавая страха́
**rusk** [rʌsk] n. суха́р -а́, суха́рык -а *m.*
**russet** [ˈrʌsɪt] – adj. 1. руды́. 2. сяля́нскі, ха́тні, про́сты. 3. пашы́ты з даматка́нага рудо́га сукна́
– n. 1. руды́, іржа́вы ко́лер. 2. саматка́нае сукно́ рудо́га ко́леру. 3. гату́нак я́блыкаў
**Russian** [ˈrʌʃən] – adj. расе́йскі, ру́скі
– n. 1. расе́лец -йца *m.* 2. расія́нін -а *m.* 3. расе́йская мо́ва
**rust** [rʌst] – n. 1.іржа́ *f.* 2. іржа́ *f.* (*хваро́ба збо́жжавых расьлі́наў*). 3. руды́ ко́лер
– v. 1. іржаве́ць, пакрыва́цца іржо́ю. 2. прытупля́цца, карэ́ць (*ад бязьдзе́йнасьці*): ***Don't let your mind rust during vacation*** Не дава́й сваі́м мазга́м прытупля́цца падча́с адпачы́нку
– adj. іржа́вы; руды́
**rustic** [ˈrʌstɪk] – adj. 1. вяско́вы, сяля́нскі. 2. про́сты: ***rustic speech and ways*** про́стая мо́ва й звы́чкі. 3. гру́бы, нявы́хаваны
– n. вяско́вец -ўца *m.*, селяні́н -а *m.*
**rustle** [ˈrʌsəl] – n. шо́лах, шэ́лест -у *m.*, шо́рах -у *m.*; ша́станьне *n.*; шапаце́ньне, шалясьце́ньне, шамаце́ньне *n.*
– v.i. 1. шо́ргаць; шалясьце́ць, шапаце́ць, шамаце́ць. 2. Informal кра́сьці скаці́ну. 3. Informal (up) камбінава́ць, зьбіра́ць: ***to rustle up some cash*** скамбінава́ць капе́йку
**rustler** [ˈrʌslər] n. 1. Informal зло́дзей скаці́ны. 2. Informal камбіна́тар -а, дзялло́к -ка́ *m.*
**rustless** [ˈrʌstləs] adj. 1. нержаве́лы. 2. нержаве́ючы
**rustproof** [ˈrʌstpru:f] adj. нержаве́ючы
**rusty** [ˈrʌsti] adj. 1. іржа́вы, заржаве́лы: ***a rusty knife*** заржаве́лы нож; ***a rus-***

***ty stain*** пля́ма ад іржы́. 2. іржа́вы ко́лер. 3. бля́клы, вы́цьвілы: ***a rusty black*** збля́клы, вы́цьвілы чо́рны ко́лер. 4. Figur. запу́шчаны, занядба́ны: ***His French is a little rusty*** Ён крыху прызабы́ў францу́скую мо́ву

**rut I** [rʌt] – n. 1. каляі́на, баразна́ *f.* 2. прывы́чны спо́саб дзе́яньня; руты́на *f.* – v.t. пара́заць каляі́намі, збаразьні́ць

**rut II** [rʌt] n. 1. це́чка *f.* (*у ла́няў, ко́заў, аве́чак*). 2. час це́чкі

**rutabaga** [ˌruːtəˈbeɪgə] n. гату́нак бру́чкі

**ruthless** [ˈruːθləs] adj. бязьлі́тасны; лю́ты, жо́рсткі

**rutty** [ˈrʌti] adj. вы́ежджаны, зра́заны каляі́намі

**rye** [raɪ] n. 1. жы́та *n.* 2. жы́тняе зе́рне. 3. жы́тняя мука́. 4. ві́скі з жы́та: ***a bottle of rye*** пля́шка ві́скі

**rye bread** жы́тні хлеб

# S

**S, s** [es] n., pl. **S's, s's** *дзевятна́ццатая лі́тара англе́льскага альфабэ́ту*

**'s** *скаро́чаная фо́рма ад* us, is *або́* has, *дадава́ная да папярэ́дняга сло́ва*: ***Let's (= let us) go*** Хадзе́м; ***He's (= he is) here*** Ён тут; ***He's (= he has) just gone*** Ён то́лькі што пайшо́ў

**Sabbath** [ˈsæbəθ] – n. дзень малі́твы і адпачы́нку; ша́бас -у *m.*, субо́та *f.* (*у юдэ́яў*); нядзе́ля *f.* (*у хрысьція́наў*)
– adj. субо́тні; нядзе́льны: ***a Sabbath meal*** нядзе́льная, сьвято́чная е́жа

**sabbatical leave** гадавы́ аплочваны адпачы́нак для прафэсу́ры

**saber**, Brit. **sabre** [ˈseɪbər] – n. 1. ша́бля *f.* 2. пала́ш -а́ *m.*
– v.t. біць ша́бляй

**sable** [ˈseɪbəl] – n. 1. со́баль -я *m.* 2. со́балева фу́тра
– adj., Poet. чо́рны, цё́мны: ***a widow's sable garments*** чо́рны ўбо́р удавы́
***• sables*** жало́бны ўбо́р

**sabotage** [ˈsæbətɑːʒ] – n. 1. сабата́ж -у *m.* 2. дывэ́рсія *f.*
– v.i. шко́дзіць, разбура́ць наўмы́сна, сабатава́ць

**saboteur** [ˌsæbəˈtɜːr] n. сабата́жнік -а *m.*, сабата́жніца *f.*

**sac** [sæk] n., Anat., Bot. мяшэ́ч|ак -ка *m.* (*паве́траны, заро́дкавы*)

**saccharin** [ˈsækərɪn] n. сахары́н -у *m.*

**saccharine** [ˈsækəriːn] adj. пры́тарны, саладжа́вы: ***a saccharine smile*** саладжа́вая ўсьме́шачка

**sachet** [sæˈʃeɪ] n. 1. мяшэ́ч|ак -ка, паке́цік -а *m.* 2. мяшэ́чак з пахно́цьцямі

**sack I** [sæk] – n. 1. вялі́кі мяшо́к; ме́х мяха́ *m.*; мяшэ́ч|ак -ка *m.*: ***a sack of flour*** мех мукі́. 2. сак -а *m.* (*шыро́кая жано́чая або́ дзіця́чая капо́та*). 3. Sl. ло́ж|ак -ка *m.* 4. Sl. звальне́ньне з пра́цы
– v.t. 1. кла́сьці, насы́паць у мяхі́ . 2. Sl. звальня́ць з пра́цы
***• hit the sack***, Sl. ісьці́ спаць; пайсьці́ на бакаву́ю
***• hold the sack***, Informal заста́цца ні з чым

**sack II** [sæk] v.t. рабава́ць; абабіра́ць, абакрада́ць: ***The invaders sacked the town*** Захо́пнікі абрабава́лі го́рад

**sack III** [sæk] n. гішпа́нскае сухо́е бе́лае віно́

**sackful** [ˈsækfəl] n., pl. **-fuls** 1. по́ўны мех. 2. Informal шмат, по́ўна

**sacrament** [ˈsækrəmənt] n. 1. сакра́мант -у *m.*, тае́мства, та́інства *n.*: ***Baptism is a sacrament*** Абра́д хрышчэ́ньня — тае́мства. 2. не́шта сьвято́е. 3. урачы́стае абяца́ньне, прыся́га *f.*

**sacred** [ˈseɪkrɪd] adj. 1. сьвяшчэ́нны, сьвяты́: ***the sacred altar*** сьвяты́ алта́р. 2. рэлігі́йны, царко́ўны: ***sacred writings*** рэлігі́йная літарату́ра; ***sacred music*** царко́ўная му́зыка. 3. непару́шны: ***sacred oath*** непару́шная прыся́га. 4. недатыка́льны

**Sacred College** Сьвяшчэ́нная калéгія (*кардына́льская калéгія, якáя абірáе рымскага пáпу*)

**sacrifice** [ˈsækrıfaıs] – n. 1. ахвяраваньне, ахвя́рапрынашэ́ньне *n.* 2. ахвя́ра *f.* 3. стра́та *f.*: ***to sell one's house at a sacrifice*** прада́ць дом са стра́таю
– v.t. 1. пры́носіць ахвя́ру, ахвяро́ўваць. 2. ахвяро́ўваць сабо́ю: ***Mother has sacrificed her life for her children*** Ма́ці ахвярава́ла сваё жыцьцё дзе́ля дзяцéй; ***to make the supreme sacrifice*** адда́ць жыцьцё, прынéсьці найвышэ́йшую ахва́ру

**sacrilege** [ˈsækrəlıdʒ] n. блюзьнéрства *n.*

**sacrilegious** [ˌsækrəˈlıdʒəs] adj. блюзьнéрскі

**sacrum** [ˈseıkrəm] n., pl. **-cra, -crums**, Anat. крыж -а *m.* (*ніжняя ча́стка хрыбта́*)

**sad** [sæd] adj. 1. су́мны, смýтны, марко́тны: ***sad looks*** марко́тны вы́гляд; ***a sad occasion*** су́мныя абста́віны. 2. вéльмі дрэ́нны, ва́рты жа́лю: ***a sad state of affairs*** ро́спачны стан рэ́чаў

**sadden** [ˈsædən] – v.t. засмуча́ць
– v.i. засмуча́цца

**saddle** [ˈsædəl] – n. 1. сядло́ *n.* 2. падсядзёлак -ка *m.* 3. го́рная седлаві́на
– v.t. 1. сядла́ць (*каня́*). 2. абцяжа́рваць; быць абцяжа́раным: ***He is saddled with too many jobs*** Ён абцяжа́раны ро́знымі заня́ткамі
• ***be in the saddle***, Informal верхаво́дзіць, кірава́ць

**saddle horse** верхавы́ конь

**saddler** [ˈsædlər] n. ры́мар -а *m.*

**saddlery** [ˈsædləri] n., pl. **-dleries** 1. ры́марства *n.* 2. рыма́рня *f.* 3. сёдлы, вýпраж *f.*, рыштýнак для ко́ней

**sadism** [ˈseıdˌızəm] n. сады́зм -у *m.*

**sadist** [ˈseıdıst] n. сады́ст -а *m.*, сады́стка *f.*

**sadistic** [səˈdıstık] adj. сады́сцкі

**sadness** [ˈsædnəs] n. 1. смýтак -ку, сум -у *m.*; журба́, марко́та *f.* 2. го́ра *n.*, бяда́ *f.*

**safari** [səˈfɑ:ri] n., pl **-ris** сафа́ры, *n., indecl.* (*паляўні́чая экспэды́цыя у А́фрыку*)

**safe** [seıf] – adj. 1. бясьпéчны, пэ́ўны: а) ***We feel safe here*** Мы тут чу́емся бясьпéчнымі. б) ***Keep money in a safe place*** Трыма́й гро́шы ў бясьпéчным мéсцы. 2. непашко́джаны, цэ́лы: ***He returned from war safe and sound*** Ён вярну́ўся з вайны́ цэ́лы й здаро́вы. 3. асьцяро́жны, аба́члівы: ***a safe move*** асьцяро́жны крок. 3. надзéйны, пэ́ўны: ***a safe guide*** надзéйны правадні́к
– n. сэйф -а *m.*, незгара́льная ша́фа

**safe-deposit box** [ˈseıfdıˌpɑ:zət] n. сэйф -а *m.*, скры́нка для перахо́ўваньня кашто́ўнасьцяў у ба́нку

**safeguard** [ˈseıfgɑ:rd] – v.t. 1. ахо́ўваць, абараня́ць. 2. пільнава́ць, вартава́ць; суправаджа́ць, вéсьці пад канво́ем
– n. 1. ахо́ва, засьцяро́га *f.*: ***a safeguard against disease*** засьцяро́га ад хваро́бы. 2. ва́рта *f.*; вартавы́ -о́га *m.*; канво́й -ю *m.*, канваі́р -а *m.*

**safe-keeping** [ˌseıfˈki:pıŋ] n. захо́ўваньне, зьберага́ньне *n.*; перахава́ньне *n.*

**safely** [ˈseıfli] adv. 1. ***to return home safely*** вярну́цца дамо́ў цэ́лым і здаро́вым. 2. бяз ры́зыкі, без памы́лкі; пэ́ўна, з пэ́ўнасьцю: ***I can safely say*** Магу́ пэ́ўна сказа́ць

**safety** [ˈseıfti] – n., pl. **-ties** 1. а) бясьпéчнасьць, бясьпéка *f.* б) адсу́тнасьць ры́зыкі: ***with safety*** бясьпéчна, бяз ры́зыкі. 2. засьцерага́льнік -а *m.* (*у мэхані́зьме*)
– adj. засьцерага́льны

**safety belt** 1. = **seat belt** рэ́мень бясьпéкі (*у машы́не, самалёце*). 2. вырата́вальны по́яс

**safety pin** агра́фка *f.*, ангéльская шпі́лька

**safety valve** засьцерага́льны кла́пан

**saffron** [ˈsæfrən] – n. 1. шафра́н -у *m.* 2. Bot. во́сеньскі кро́кус. 3. ара́нжава-жо́ўты ко́лер
– adj. шафра́навы, ара́нжава-жо́ўты

**sag** [sæg] – v.i. 1. абвіса́ць; угіна́цца; асяда́ць. 2. няро́ўна зьвіса́ць, абвіса́ць: ***Your dress sags in the back*** Твая́ сукéнка ззáду абві́сла. 3. сла-

бéць, пáдаць дýхам. 4. пáдаць (*пра цанý*)
– n. 1. прагíн -у *m.*, угінáньне, асядáньне *n.* 2. зьніжэ́ньне цэ́наў

**saga** [ˈsɑːgə] n. сáга *f.*, падáньне *n.*, легéнда *f.*

**sagacious** [səˈgeɪʃəs] adj. пранíклівы; практы́чна празóрлівы. 2. развáжлівы, кéмлівы, ця́мны. 3. разýмны (*пра зьвярá*)

**sagacity** [səˈgæsəti] n., pl. **-ties** кéмлівасьць, пранíклівасьць *f.*; бы́страсьць рóзуму; мýдрасьць *f.*

**sage I** [seɪdʒ] – adj. разýмны, мýдры: ***sage adviser*** разýмны дарáднік; ***a sage reply*** мýдры адкáз
– n. мудр|э́ц -ацá *m.*

**sage II** [seɪdʒ] n., Bot. шалфé|й -ю *m.*

**sago** [ˈseɪgoʊ] n., pl. **-goes** сáга *n., indecl.* (*крýпы*)

**sago palm** сáгавая пáльма

**said** [sed] – v., *p.t. and p.p. of* **say**
– adj. ранéй назвáны *абó* згадáны: ***the said witness*** ранéй згадáны сьвéдка

**sail** [seɪl] – n. 1. вéтраз|ь -я *m.*, вéтразі *pl.* 2. лóпасьць, крылó ветранóга млынá. 3. вадапла́|ў -ва *m.*, вадаплáвы *pl.* 4. плáваньне: а) пад вéтразямі. б) вадаплáвам наагýл. 5. крылó птýшкі
– v.i. 1. плыць пад вéтразямі. 2) плыць параплáвам, ляцéць самалётам. 3. кіравáць чаўнóм, вадаплáвам
• ***in sail*** пад вéтразямі
• ***(in) full sail*** пóўным хóдам
• ***make sail*** а) настáвіць вéтразі. б) пачáць рэйс (*вéтразьнікам*)
• ***sail away*** адплывáць: ***the ship sailed away*** вадаплáў адплы́ў
• ***sail (by, past, through)*** праплывáць
• ***sail into,*** Informal а) заатакавáць, удáрыць. б) крытыкавáць, гáніць
• ***set sail*** паплы́ць, падáцца ў плáваньне
• ***take in sail*** а) зьвіць, скруціць вéтразі. б) зьмéншыць сваé надзéі, амбíцыі
• ***under sail*** пад вéтразямі

**sailboat** [ˈseɪlboʊt] n. вéтразьнік -а *m.*

**sailcloth** [ˈseɪlklɔːθ] n. парусíна *f.*

**sailing** [ˈseɪlɪŋ] n. плáваньне, мараплáваньне *n.*, мараплáўства *n.*, навігáцыя *f.*

**sailor** [ˈseɪlər] – n. 1. марáк -á *m.* 2. матрóс -а *m.* 3. матрóска *f.* (*шáпка без брыля́*)
– adj. матрóскі: ***a sailor collar*** матрóскі каўнéр
• ***good sailor*** чалавéк, непадáтлівы марскóй хварóбе
• ***poor*** or ***bad sailor*** чалавéк, лёгка падáтлівы марскóй хварóбе

**sailor cap** матрóска *f.*

**saint** [ˈseɪnt] – n. 1. сьвят|ы́ -óга *m.*, сьвятáя *f.* 2. вéльмі дóбры цярплíвы чалавéк
– v.t. кананізавáць, залічáць у сьвяты́я
– adj. сьвяты́

**sainthood** [ˈseɪnthʊd] n. 1. сьвя́тасьць *f.* 2. coll. сьвяты́я *pl.*

**sake** [seɪk] n. прычы́на, падстáва *f.*: ***for the sake of glory*** дзéля слáвы; ***for conscience's sake*** для спакóю сумлéньня; ***For God's sake*** на лáску Бóжую, на міласьць Бóга; ***for your own sake*** дзéля твайгó ўлáснага дабрá

**sal** [sæl] n. соль *f.* (*у фармацэўты́чнай тэрміналёгіі*)

**salability** [ˌseɪləˈbɪləti] n. хóдкасьць *f.* (*тавáру, прадýкту*)

**salable** [ˈseɪləbəl] adj. які́ лёгка прадáць, хóдкі

**salad** [ˈsæləd] n. салáта *f.*

**salad dressing** запрáва, закрáса для салáты

**salamander** [ˌsæləˈmændər] n. салямáндра *f.*

**salami** [səˈlɑːmɪ] n. саля́мі, *n., indecl.* (*ад каўбасы́*)

**salary** [ˈsæləri] n., pl. **-ries** зарóб|ак -ку *m.*, зарплáта *f.*, аклáд -у *m.*

**sale** [seɪl] n. 1. а) прóдаж -у *m.*: ***flowers on sale*** квéткі на прóдаж. б) кóлькасьць прадáдзенага тавáру: ***Today's sales were larger than yesterday*** Сёньня тавáру прадáдзена больш, як

учóра. 2. збыт, пóпыт -у *m.*; ры́нак збы́ту. 3. распрóдаж: ***a sale on suits*** распрóдаж гарніту́раў (*са зьні́жкамі*). 4. прóдаж з аўкцыёну

• ***for sale*** на прóдаж

• ***on sale*** а) на прóдаж. б) прадаéцца са зьні́жкай

**saleable** [ˈseɪləbəl] adj. *гл.* **salable**

**salesclerk** [ˈseɪlzklɜ:rk] n. прада|вéц -ўцá *m.*

**salesgirl** [ˈseɪlzgɜ:rl] n. прадавáчка *f.*

**saleslady** [ˈseɪlzˌleɪdi] n., pl. **-dies** *or* **saleswoman** [ˈseɪlzˌwʊmən] n., pl. **-women** прадавáчка *f.*

**salesman** [ˈseɪlzmən] n., pl. **-men** прада|вéц -ўцá *m.*

**sales tax** падáтак ад прóдажу *абó* ку́плі

**saline** [ˈseɪli:n] – adj. 1. саляны́. 2. з сóльлю *абó* солямі

– n. саланчáк -ý *m.* (*глéба, насы́чаная сóлямі*)

**saliva** [səˈlaɪvə] n. сьлі́на *f.*

**salivary** [ˈsæləveri] adj. сьлі́нны

**salivary glands** сьлі́нныя залóзы

**salivate** [ˈsælɪveɪt] – v.t. выклікáць сьлінéньне

– v.i. сьлінí́цца

**sallow I** [ˈsæloʊ] – adj. блéдны, бляды́; жаўтавáты; хваравíты: ***a sallow complexion*** блéдны кóлер твáру

– v. рабí́ць (-ца) блéдным, жаўтавáтым; бляднéць, бялéць

**sallow II** [ˈsæloʊ] n. вярбá, лазá *f.*; галí́нка вярбы́, лазы́

**salmon** [ˈsæmən] n., coll **-on,** pl. **-ons** 1. ла|сóсь -сася́ *m.*: ***pink salmon*** сёмга *f.* 2. жаўтавáта-ружóвы кóлер

**salon** [səˈlɑ:n] n. 1. касмэты́чны кабінэ́т. 2. салён -у *m.*, гасьцёўня *f.* 3. зáля для выстáвы карцíнаў. 4. выстáва карцíнаў

**saloon** [səˈlu:n] n. 1. шын|óк -кá *m.*, піўнáя *f.* 2. салён-у *m.*: ***The ship's passengers ate in the dining saloon*** Пасажы́ры на вадаплáве éлі ў сталóвым салёне

**saloonkeeper** [səˈlu:nki:pər] n. шынкáр -á *m.*, шынкáрка *m.*

**salt** [sɔ:lt] – n. 1. соль *f.* 2. Chem. соль (*хімíчнае спалучэ́ньне*). 3. пікáнтнасьць. 4. Informal марáк -á *m.*

– v.t. 1. салí́ць (*стрáву*). 2. салí́ць, засóльваць

– adj. 1. салóны. 2. марскí́, залíты салёнай вадóй: ***salt grasses*** надмóрскія трáвы. 3. салёны. 4. Figur. пікáнтны, вóйстры; дасьці́пны, трáпны

• ***salt away*** or ***down*** а) засыпáць сóльлю, марынавáць. б) Sl. зьбірáць, запáсіць (*грóшы*)

• ***salt of the earth*** соль зямлí́

• ***salts,*** pl. сóлі *pl.* а) слабíцельныя лéкі. б) нюхальныя лéкі

• ***with a grain of salt*** з засьцярóгай, са скептыцы́змам

**salted** [ˈsɔ:ltəd] adj. 1. салёны; марынавáны. 2. спрактыкавáны, бывáлы; загартавáны

**saltiness** [ˈsɔ:ltɪnəs] n. салёнасьць *f.*

**salt marsh** саланчáк -ý *m.*, нізíна затóпленая салёнай вадóю

**saltpeter** or **saltpetre** [ˌsɔ:ltˈpi:tər] n. салéтра *f.*

**saltshaker** [ˈsɔ:ltʃeɪkər] n. сальнí́ца *f.*

**salt-water** [ˈsɔ:ltˌwɔ:tər] adj. 1. з салёнай вадóй. 2. марскí́: ***a salt-water fish*** марскáя ры́ба; ***salt-water fishing*** марскáя рыбалóўля

**salty** [ˈsɔ:lti] adj. 1. салёны; салóны. 2. Figur. салёны, пікáнтны: ***a salty remark*** пікáнтная заўвáга

**salubrious** [səˈlu:briəs] adj. здарóвы, кары́сны для здарóўя

**salubrity** [səˈlu:brəti] n. 1. мóцнае здарóўе. 2. спрыя́льныя для здарóўя ўмóвы

**salutary** [ˈsæljəteri] adj. 1. кары́сны, дабратвóрны: ***The teacher gave the boy salutary advice*** Настáўнік даў хлапцу́ кары́сную парáду. 2. здарóвы, дóбры для здарóўя

**salute** [səˈlu:t] – v.t. 1. ушанóўваць салю́там. 2. вітáць

– v.i. салютавáць, аддавáць салю́т, вітáцца

– n. салю́т -у *m.*

**Salvadorean** [ˌsælvəˈdɔːrɪən] – adj. сальвадо́рскі
– n. сальвадо́р|ац -ца *m.*, сальвадо́рка *f.*

**salvation** [sælˈveɪʃən] n. 1. збаве́ньне, збаўле́ньне, вы́ратаваньне *n.* 2. зба́ўц|а -ы, збаві́цел|ь -я *m.*

**Salvation Army** А́рмія Збаўле́ньня

**salve** [sæv] – n. 1. гаю́чая мазь. 2. тое, што суцяша́е, палягча́е; бальза́м -у *m.*: ***The kind words were a salve to his hurt feelings*** До́брыя сло́вы былі́ бальза́мам для яго́ных зра́неных пачу́цьцяў
– v.t. 1. ма́заць ма́зьзю. 2. суцяша́ць, палягча́ць

**salvo** [ˈsælvoʊ] n. 1. залп -у *m.* 2. салю́т -у *m.*

**same** [seɪm] – adj., pron. 1. такі́ са́мы, така́я са́мая, тако́е са́мае: а) ***Her name and my name are the same*** Ейнае імя́ і маё імя́ — такі́я са́мыя. 2. то́й са́мы, та́я са́мая, то́е са́мае: а) ***We came back the same way we went*** Мы вярну́ліся той са́май даро́гаю, якóю туды́ йшлі́. б) ***the same as*** той са́мы, што і. 3. гэ́ты ж, той жа
• ***all the same*** аднак, усё ж такі́; тым ня менш: ***Thank you all the same*** I тым ня менш дзя́кую вам
• ***just the same*** а) гэ́так жа. б) тым ня менш
• ***the same*** такса́ма, гэ́так жа

**sameness** [ˈseɪmnəs] n. 1. то́еснасьць *f.* 2. аднаста́йнасьць, манато́ннасьць *f.*

**sample** [ˈsæmpəl] n. узо́р -у *m.*, про́ба *f.*, шаблён -у *m.*
– adj. які́ слу́жыць узо́рам, узо́рны
– v. спрабава́ць

**sanatorium** [ˌsænəˈtɔːriəm] n., pl. **-riums, -ria** 1. санато́рыя *f.* 2. куро́рт -у *m.*

**sanctified** [ˈsæŋktɪfaɪd] adj. асьвя́чаны; сьвяты́

**sanctify** [ˈsæŋktɪfaɪ] v.t. **-fied, -fying** 1. асьвяча́ць, рабі́ць сьвяты́м: ***A life of sacrifice had sanctified her*** Ейнае самаахвя́рнае жыцьцё зрабі́ла яе́ сьвято́ю. 2. ачышча́ць ад грахо́ў. 3. апра́ўдваць

**sanctimonious** [ˌsæŋktɪˈmoʊniəs] adj. удава́на пабо́жны, крываду́шны, ха́нжаскі

**sanctimony** [ˈsæŋktɪmoʊni] n. удава́ная пабо́жнасьць, крываду́шнасьць *f.*

**sanction** [ˈsæŋkʃən] – n. 1. афіцы́йны дазво́л, ухвале́ньне *n.* 2. санкцыянава́ньне *n.* 3. са́нкцыя *f.*
– v.t. 1. зацьвярджа́ць, рабі́ць правамо́цным, санкцыянава́ць. 2. ухваля́ць; дазваля́ць. 3. пацьвярджа́ць

**sanctity** [ˈsæŋktəti] n., pl. **-ties** сьвя́тасьць, бо́скасьць *f.*: ***the sanctity of the church*** сьвя́тасьць царквы́
• ***sanctities*** а) сьвяты́я, запаве́тныя абавяза́ньні. б) запаве́тныя прадме́ты

**sanctuary** [ˈsæŋktʃueri] n., pl. **-aries** 1. сьвяты́ня *f.*, храм -а *m.*; сьвяці́лішча *n.* 2. а) ме́сца пры́ста́нішча або́ абаро́ны. б) прыту́л|ак -ку *m.* 3. запаве́днік -у *m.*: ***a bird sanctuary*** птушы́ны запаве́днік

**sanctum sanctorum** [ˈsæŋktəm sæŋkˈtɔːrəm] n. 1. сьвято́е сьвяты́х. 2. запаве́тнае ме́сца

**sand** [sænd] – n. 1. пяс|о́к -ку́ *m.* 2. пяско́вы ко́лер
– v.t. 1. пасыпа́ць пяско́м: ***They sanded the icy road*** Яны́ пасы́палі заледзяне́лую даро́гу пяско́м. 2. напаўня́ць пяско́м. 3. зако́пваць у пясо́к. 4. шліфава́ць пяско́м або́ нажда́чнай папе́рай
– adj. пяско́вы, пясо́чны
• ***sands*** пяскі́, пяшча́нае ме́сца, пешчына́ *m.*

**sandal** [ˈsændəl] n. санда́ля *f.*

**sandalwood** [ˈsændəlwʊd] n. санда́л -а і -у *m.* (*дрэ́ва*)

**sandbank** [ˈsændbæŋk] n. пяшча́ная мель

**sandbox** [ˈsænbɑːks] n. пясо́чніца *f.* (*скры́ня зь пяско́м*)

**sandglass** [ˈsændglæs] n. пясо́чны гадзі́ньнік

**sandpaper** [ˈsændˌpeɪpər] n. нажда́чная папе́ра

**sandstone** [ˈsændstoʊn] n. пяшча́нік -у *m.*

**sandstorm** [ˈsændstɔ:rm] n. саму́м -у *m.*, пяшча́ны ураган

**sandwich** [ˈsænwɪdʒ] n. сэ́ндвіч -а *m.*, бутэрбро́д -а *m.*

**sandy** [ˈsændi] adj. 1. пяшча́ны: ***a sandy beach*** пяшча́ны пля́ж. 2. пяско́вы (*пра ко́лер*)

**sane** [seɪn] adj. 1. нарма́льны, з здаро́вым ро́зумам, пры сваі́м ро́зуме: ***a sane mind*** здаро́вы ро́зум. 2. разва́жны, разу́мны

**sanguinary** [ˈsæŋgwəneri] adj. 1. крыва́вы: ***a sanguinary battle*** крыва́вая бітва́. 2. крыважэ́рны, пра́гны крыві́

**sanguine** [ˈsæŋgwɪn] adj. 1. сангвіні́чны, жва́вы, жыцьцяра́дасны; паўнакро́ўны: ***a sanguine disposition*** сангвіні́чны хара́ктар. 2. пэ́ўны, по́ўны надзе́і, аптымісты́чны: ***sanguine of success*** пэ́ўны ўда́чы. 3. ***a sanguine complexion*** здаро́вы, румя́ны ко́лер тва́ру

**sanguineous** [sæŋˈgwɪniəs] adj. 1. крывяны́; як кроў; крыва́вы. 2. чырво́ны, як кроў. 3. паўнакро́ўны. 4. сангвіні́чны; по́ўны аптымі́зму. 5. крыважэ́рны

**sanitarian** [ˌsænəˈteriən] – n. сані́та́р -а *m.*, сані́та́рка *f.*
– adj. сані́та́рскі

**sanitarium** [ˌsænəˈteriəm] n., pl. **-iums, -ia** 1. санато́рыя *f.* 2. куро́рт -а *m.*

**sanitary** [ˌsænəteri] adj. 1. сані́та́рны. 2. гігіені́чны

**sanitary napkin** гігіені́чная падкла́дка (*ужыва́ная пры мэнструа́цыі*)

**sanitation** [ˌsænɪˈteɪʃən] n. пале́пшаньне сані́та́рных умо́ваў, аздараўле́ньне *n.*, санітары́я *f.*

**sanity** [ˈsænəti] n. 1. здаро́вы псыхі́чны стан, нарма́льная псы́хіка. 2. здаро́вы ро́зум; разва́жнасьць *f.*

**sank** [sæŋk] v., *p.t. of* **sink**

**Santa** = **Santa Claus** [ˈsæntəˌklɔ:z] n. Сьвяты́ Мікала́й, Са́нта Кла́ўс; Дзед Маро́з

**sap I** [sæp] n. 1. сок -у *m.* (*у расьлі́нах*). 2. Sl. ду́р|ань -ня *m.*, дуры́л|а -ы *m.&f.*

**sap II** [sæp] – v.t. **(-pp- )** 1. рабі́ць падко́п, разбура́ць падму́рак. 2. аслабля́ць, зьнясі́льваць, мардава́ць: ***The extreme heat sapped our strength*** Празьме́рная гарачыня́ зьнясі́ліла нас. 3. Milit. капа́ць, падво́дзіць са́пу, траншэ́ю, падко́п. 4. капа́ць тунэ́ль
– n. са́па *f.*, падво́джаньне са́пы пад пазы́цыю во́рага

**sapience** [ˈseɪpiəns] n. му́драсьць *f.*

**sapient** [ˈseɪpiənt] adj. му́дры

**sapless** [ˈsæpləs] adj. 1. бяз со́каў, вы́сахлы (*пра расьлі́ну*). 3. без энэ́ргіі, бясьсі́льны

**sapling** [ˈsæplɪŋ] n. 1. маладо́е дрэ́ўца. 2. малады́ чалаве́к

**sapper** [ˈsæpər] n. сапёр -а *m.*

**sapphire** [ˈsæfaɪr] – n. 1. сапфі́р -а *m.* 2. сьве́тла-сі́ні ко́лер
– adj. сьветла-сі́ні

**sappy** [ˈsæpi] adj. 1. по́ўны со́ку, сакаві́ты. 2. мо́цны, энэргі́чны

**sapwood** [ˈsæpwʊd] n., Bot. абало́на *f.* (*дрэ́ва*)

**sarcasm** [ˈsɑ:rkˌæzəm] n. сарка́зм -у *m.*, зьбе́длівая насьме́шка, кпі́ны *pl.*

**sarcastic** [sɑ:rˈkæstɪk] adj. зье́длівы, саркасты́чны: ***to make sarcastic remarks*** рабі́ць зье́длівыя заўва́гі, упіка́ць, дакара́ць

**sarcastically** [sɑ:rˈkæstɪkli] adv. зье́дліва, саркасты́чна

**sardine** [sɑ:rˈdi:n] n., pl. **-dines,** coll. **-dine** сарды́нка *f.*
***• packed like sardines*** біткО́м набі́ты

**Sardinian** [sɑ:rˈdɪniən] – adj. сарды́нскі
– n. сарды́н|ец -ца *m.*, жыха́р абто́ку Сарды́ніі. 2. сарды́нская мо́ва

**sardonic** [sɑ:rˈdɑ:nɪk] adj. зье́длівы; насьме́шлівы, саркасты́чны; пагардлі́вы, зьнява́жлівы

**sash I** [sæʃ] n. 1. по́яс -а *m.* 2. сту́жка *f.*

**sash II** [sæʃ] n. вако́нная ра́ма, ра́ма ў шкляны́х дзьвяра́х

**sat** [sæt] v., *p.t. and p.p. of* **sit**

**Satan** [ˈseɪtən] n. Шата́н -а *m.*, сатан|а́ -ы́ *m.*, д’я́бл|ал -ла *m.*

**satanic** *or* **Satanic** [səˈtænɪk] adj. 1. шата́нскі, сатані́нскі, сатані́чны, д’я́бальскі. 2. ве́льмі злы, ліхі́

**sate** [seɪt] v.t. 1. ца́лкам задаво́льваць, насыча́ць, наталя́ць: ***A long drink sated his thirst*** Напі́ўшыся, ко́лькі хацёў, наталі́ў сваю́ сма́гу. 2. перанасыча́ць

**sateen** [səˈti:n] n. саты́н -у *m.*

**satellite** [ˈsætəlaɪt] n. 1. спадаро́жнік, сатэлі́т -а *m.* (*пра плянэ́ту*). 2. прыхі́льнік -а *m.* 3. паслуга́ч -а́ *m.*, памага́т|ы -ага *m.*; пры́хвась|цень -ня *m.* 4. сатэлі́т -а *m.* (*пра дзяржа́ву*)

**satiate** [ˈseɪʃieɪt] v. 1. кармі́ць, наяда́цца, напіва́цца дасы́та; ца́лкам задаво́львац|ь (-ца). 2. перанасыча́цца; прыяда́цца: ***Mary was so satiated with bananas that she would not even look at one*** Мары́і так прые́ліся бана́ны, што і глядзе́ць на іх не магла́

**satiety** [səˈtaɪəti] n. перасы́ць *f.*

**satin** [ˈsætən] – n. атла́с -у *m.*

– adj. атла́сны, з атла́су

**satin stitch** гладзь *f.* (*род вы́шыўкі*)

**satire** [ˈsætaɪr] n. саты́ра *f.*

**satiric** [səˈtɪrɪk] *or* **satirical** [səˈtɪrɪkəl] adj. сатыры́чны

**satirist** [ˈsætərɪst] n. саты́рык -а *m.*

**satisfaction** [ˌsætɪsˈfækʃən] n. 1. задавальне́ньне *n.*, задаво́леньне *n.* 2. задаво́ленасьць *f.*, задавальне́ньне *n.* 3. пераканáньне *n.*: ***If you can prove it to my satisfaction*** Калі́ вы мо́жаце пераканáць мяне́ ў гэ́тым. 4. вы́плата до́ўгу; выкана́ньне абавяза́ньня; кампэнса́цыя *f.*

• ***give satisfaction*** а) задаво́ліць. б) прыня́ць вы́клік на двубо́й

**satisfactorily** [ˌsætɪsˈfæktərəli] adv. здавальня́юча

**satisfactory** [ˌsætɪsˈfæktəri] adj. здавальня́ючы, дастатко́вы, дастатко́ва до́бры

**satisfy** [ˈsætɪsfaɪ] v.t. **-fied, -fying** 1. задавальня́ць; заспако́йваць, наталя́ць: ***He satisfied his hunger with a piece of bread and milk*** Ён наталі́ў го́лад кава́лкам хле́ба з малако́м. 2. задаво́льваць: ***Are you satisfied now?*** Ці ты цяпе́р задаво́лены? 3. плаці́ць, кампэнсава́ць (*за шко́ду*). 4. пераконваць: ***He was satisfied that it was an accident*** Ён пераканáўся ў тым, што гэ́та быў выпа́дак

**saturate** [ˈsætʃəreɪt] v.t. 1. прасяка́ць, насыча́ць, прамо́чваць: ***The air was saturated with moisture*** Паве́тра было́ прася́кнутае ві́льгацьцю; ***a saturated solution*** насы́чаны раство́р. 2. напаўня́ць, перапаўняць

**saturation** [ˌsætʃəˈreɪʃən] n. 1. насычэ́ньне *n.* 2. насы́чанасьць *f.*

**Saturday** [ˈsætərdeɪ] n. субо́та *f.*

**satyr** [ˈseɪtər] n. саты́р -а *m.*

**sauce** [sɔ:s] – n. 1. со́ўс -у *m.*, падлі́ўка *f.*; прыпра́ва *f.* 2. фрукто́вае пюрэ́: ***apple sauce*** я́блычнае пюрэ́. 3. Figur. со́ўс -у *m.*, закра́са *f.*: ***sauce of life*** закра́са жыцьця́

– v.t. паліва́ць падлі́ўкай, со́усам

**saucepan** [ˈsɔ:spæn] n. кастру́ля *f.*, ро́нд|аль -ля *m.*

**saucer** [ˈsɔ:sər] n. спо́д|ак -ка *m.*; спо́дач|ак -ка *m.*

**saucy** [ˈsɔ:si] adj. 1. непачці́вы, наха́бназадзі́рысты. 2. зґра́бны, фарсі́сты: ***a saucy hat*** фарсі́сты капялю́ш

**sauerkraut** [ˈsaʊrkraʊt] n. ква́шаная капу́ста, кі́слая капу́ста

**saunter** [ˈsɔ:ntər] – v.i. прахо́джвацца, шпацырава́ць: ***to saunter through the park*** хадзі́ць, прахо́джвацца па па́рку

– n. 1. паво́льная, бестурбо́тная хада́. 2. прахо́дка *f.*, шпа́цыр -у *m.*

**sausage** [ˈsɔ:sɪdʒ] n. каўбаса́, кілбаса́ *f.*

**sauté** [soʊˈteɪ] adj. падсма́жаны, абсма́жаны

**savage** [ˈsævɪdʒ] – adj. 1. дзі́кі, дзікі́. 2. нецывілізава́ны, ба́рбарскі; дзіку́нскі: ***savage customs*** дзіку́нскія звы́чаі. 3. лю́ты, зьве́рскі: ***a savage dog*** лю́ты, кусьлі́вы саба́ка. 4. а) мо́цна ўзлава́ны, разью́шаны. б) неперабо́рлівы ў сло́вах, ла́янцы. 5. непрыру́чаны, дзі́кі, дзікі́

– n. 1. дзіку́н -а́ *m.*, дзіку́нка *f.* 2. нястры́мны, шалёны *або́* лю́ты чалаве́к. 3. нявы́хаваны чалаве́к

**savagely** [ˈsævɪdʒli] adv. па-дзікýнску, па-зьвéрску

**savagery** [ˈsævɪdʒəri] n., pl. **-ries** 1. дзíкасьць *f.* 2. нецывілізавáнасьць *f.* 3. лю́тасьць, разью́шанасьць *f.*

**save I** [seɪv] v.t. 1. ратавáць, выратóўваць: ***to save a drowning man*** вы́ратаваць чалавéка, які́ тóпіцца. 2. шанавáць, ахóўваць, берагчы́: ***to save one's honor*** берагчы́ свой гóнар. 3. захóўваць, перахóўваць, шанавáць (*вóпратку*). 4. ашчаджáць (*грóшы, вóчы*). 5. збаўля́ць (*ад грахóў*)

**save II** [seɪv] prep. апрачá, за вы́няткам *чагó*: ***He works every day save Sundays*** Ён працýе штодня́ апрачá нядзéляў

**saving** [ˈseɪvɪŋ] – adj. 1. выратавáльны. 2. які́ ашчаджáе, ашчáдны. 3. які́ рóбіць агавóрку, абмежавáньне: ***a saving clause*** пункт, у які́м зрóбленая агавóрка

– n. 1. ашчаджáньне *n.* 2. ашчáднасьць *f.*, заашчáджанае *n.*

• ***savings*** ашчáднасьці, заашчáджаныя грóшы

**savior**, Brit. **saviour** [ˈseɪvjər] n. збавіцел|ь -я, збáўц|а -ы, выратавáльнік -а *m.*

**Savior**, Brit. **Saviour** [ˈseɪvjər] n. *звычáйна* **the Savior** Збáўца, Ісýс Хрыстóс

**savor**, Brit. **savour**, esp. Brit. [ˈseɪvər] – n. 1. смак *абó* пах -у *m.*: ***The soup has a savor of onion*** Суп пáхне цыбýляй. 2. Figur. прысмáк -у *m.*, адцéньне *n.*: ***There is a savor of conceit in everything he says*** Ва ўсíм, што ён гавóрыць, чýецца адцéньне пыхлíвасьці

– v.i. 1. смакавáць, аддавáць (*пра пах абó смак*). 2. дадавáць смáку, прыпраўля́ць. 3. мець пры́смак, адцéньне *n.*: ***a request that savors of a command*** прóсьба з адцéньнем камáнды. 4. сьвéдчыць, пацьвярджáць: ***Bad manners savor a bad education*** Благíя манéры сьвéдчаць аб благíм узгадавáньні

**savory**, Brit. **savoury** [ˈseɪvəri] – adj. 1. смáчны, апэты́тны; прыéмны на пах. 2. пікáнтны

– n. вóстрая перакýска

**savoy** [səˈvɔɪ] n. савóйская капýста

**saw I** [sɔː] – n. пілá *f.*

– v.t. **sawed, sawed** or **sawn, sawing** пілавáць

– v.i. пілавáцца: ***wood that saws easily*** дрэ́ва, якóе лёгка пілýецца

**saw II** [sɔː] v., *p.t. of* **see**

**sawbuck** [ˈsɔːbʌk] n. 1. кóзлы *pl.* (*для пілавáньня*). 2. дзяся́тка *f.* (*грóшы*)

**sawdust** [ˈsɔːdʌst] n. пілавíньне *n.*, апíлкі *pl. only*

**sawhorse** [ˈsɔːhɔːrs] n. *гл.* **sawbuck**

**sawmill** [ˈsɔːmɪl] n. 1. тартáк -á *m.* 2. цыркуля́рка *f.* (*машы́на для пілавáньня*)

**sawn** [sɔːn] v., *p.p. of* **saw I**

**sawyer** [ˈsɔːjər] n. пíльшчык -а *m.*

**saxophone** [ˈsæksəfoʊn] n. саксафóн -а *m.*

**say** [seɪ] – v.i. **said, saying** 1. гавары́ць; казáць: ***What did you say?*** Што ты сказáў?; ***Say what you think*** Скажы́, што ты дýмаеш

– n. 1. слóва *n.*, гавóрка *f.*: ***I have had my say*** Я сказáў сваё слóва: ***Who has the say in this matter?*** Хто мáе слóва ў гэ́тай спрáве?

• ***say-so,*** Informal а) неабгрунтавáная гавóрка, чýткі. б) загáд; аўтарытэ́тная заява

• ***that is to say*** інáкш кáжучы

• ***to say nothing of (money)*** ужó ня кáжучы пра (грóшы)

**saying** [ˈseɪɪŋ] n. 1. нéшта скáзанае, асьвéдчаньне *n.* 2. пры́маўка, пры́казка *f.*, выслóўе *n.*

**scab** [skæb] – n. 1. струп -á *m.* (*на рáне*). 2. карóста *f.*, шóлудзі *pl. only* (*у жывёлы і расьлíнаў*). 3. Sl. штрэ́йкбрэ́хэр -а *m.* 4. Sl. нягóднік -а *m.*, падлю́г|а -і *m. & f.*

– v.i. 1. пакрывáцца стрýпам. 2. зрывáць страйк

**scabby** [ˈskæbi] adj. 1. струпавáты, у струпóх. 2. карóставы, шалудзíвы. 2. Informal пóдлы; нікчэ́мны; агíдны

**scaffold** [ˈskæfəld] – n. 1. рыштава́ньне *n.* 2. эшафо́т -а *m.* 3. узвы́шанае ме́сца, памо́ст -у *m.*; эстра́да *f.*
– v.t. ста́віць рыштава́ньні

**scald I** [skɔ:ld] – v.t. 1. апа́рваць. 2. абва́рваць, абліва́ць гара́чай вадо́ю. 3. па́рыць: ***to scald milk*** спа́рыць малако́. 4. апяка́ць: ***The tears that scald the cheek*** Сьлёзы, што апяка́юць шчаку́
– n. апёк -у *m.*, апа́раньне *n.*

**scald II** or **skald** [skɔ:ld] n. скальд -а *m.* (*скандына́ўскі паэ́т або́ пясьня́р*)

**scale I** [skeɪl] – n. 1. луска́, лузга́ *f.* (*у ры́бы*). 2. зубны́ ка́мень. 3. на́кіп -у *m.* (*на сьце́нах ча́йніка*)
– v.t. 1. чы́сьціць, саскрэ́бваць (*луску́ з ры́бы*). 2. здыма́ць ка́мень з зубо́ў. 3. пакрыва́ць на́кіпам
– v.i. лу́шчыцца: ***The paint is scaling off*** Фа́рба лу́шчыцца

**scale II** [skeɪl] – n. ша́ля *f.*; ***scales***, pl. ша́лі *pl.*, вага́ *f.* (*з ша́лямі*)
– v.t. ва́жыць
– v.i. мець вагу́
• ***Scales,*** pl., ***Libra*** Ша́лі *pl. only* (*сузо́р'е і знак задыя́ку*)
• ***tip the scales*** а) ва́жыць, мець вагу́. б) перава́жваць, браць верх
• ***turn the scales*** ста́цца выраша́льным фа́ктарам, вы́рашыць

**scale III** [skeɪl] – n. 1. шкала́ *f.* а) ***the scale of wages*** шкала́ зарабо́тнае пла́ты. б) ***A thermometer has a scale*** Тэрмо́мэтар ма́е шкалу́. в) шкала́ на прыймачы́, ліне́йцы ды і́ншых інструмэ́нтах для ме́раньня. 2. машта́б, паме́р -у *m.*: ***A map drawn to the scale of 1: 50,000*** Ка́рта зро́бленая ў машта́бе 1:50,000; ***on a large (small) scale*** у вялі́кім (малы́м) машта́бе. 4. сыстэ́ма лічэ́ньня: ***the decimal scale*** дзесятко́вая сыстэ́ма лічэ́ньня. 5. Mus. га́ма *f.*
– v.i. 1. узьбіра́цца, узьніма́цца (*напр. па драбі́не*). 2. рабі́ць, маля́ваць у машта́бе
• ***scale down*** паніжа́ць
• ***scale up*** павыша́ць

**scalp** [skælp] – n. 1. ску́ра й валасы́ на галаве́. 2. скальп -а *m.* 3. трафэ́й зь перамо́гі
– v.t. 1. перапрадава́ць рэ́чы з ху́ткім прыбы́ткам. 2. Informal перапрадава́ць біле́ты (*з нава́рам*)

**scalpel** [ˈskælpəl] n. ска́льпэль -я *m.*

**scaly** [ˈskeɪli] adj. пакры́ты луско́ю, як ры́ба; лускава́ты

**scam** [skæm] n., Sl. ашука́нства

**scamp** [skæmp] – n. 1. бязва́ртасны чалаве́к. 2. гарэ́зіа -ы *m.*; свави́льнік, ві́сус -а *m.*
– v. 1. працава́ць, рабі́ць неаха́йна, няўва́жліва. 2. быць скупы́м, скна́рлівым; скупі́цца

**scamper** [ˈskæmpər] – v.i. ху́тка бе́гчы, уцяка́ць
– n. ху́ткі бег

**scan** [skæn] v.t. **(-nn-)** 1. ува́жна глядзе́ць *або́* прыгляда́цца да *каго́-чаго́.* 2. зірну́ць; бе́гла прагле́дзець. 3. дзялі́ць радкі ве́рша на сто́пы. 4. скандава́ць, а) чыта́ць або́ рэцытава́ць верш. б) выра́зна вымаўля́ць сло́вы. 5. Comput. сканава́ць

**scandal** [ˈskændəl] n. 1. сканда́л -у *m.* 2. га́ньба *f.* 3. зло́сныя плёткі

**scandalize** [ˈskændəlaɪz] v.i. асканда́льваць, бянтэ́жыць, шакава́ць

**scandalmonger** [ˈskændəlˌmʌŋgər] n. пляткáр плеткара́ *m.*, пляткáрка *f.*; паклёпнік -а *m.*

**scandalous** [ˈskændələs] adj. 1. сканда́льны; ганéбны; абура́льны. 2. паклёпніцкі; пляткáрскі

**Scandinavian** [ˌskændɪˈneɪviən] – adj. скандына́ўскі
– n. 1. скандына́ў -ва *m.*, скандына́ўка *f.* 2. скандына́ўская мо́ва

**scanner** [skænər] n., Comput. ска́нэр -а *m.*

**scant** [skænt] – adj. 1. скупы́; бе́дны; цеснава́ты: ***a scant meal*** бе́дная, скупа́я е́жа; ***Her coat was short and scant*** Ейнае паліто́ было́ каро́ткае й цеснава́тае. 2. няпо́ўны, не зусім по́ўны;

няцэ́лы: ***a scant cup of sugar*** не зусі́м по́ўны ку́бак цу́кру; ***You have a scant hour in which to pack*** Вы ма́еце няцэ́лую гадзі́ну, каб спакава́цца
– v.t. уразáць (*напр. выда́ткі, заро́бкі*); зьмяншáць, скарачáць; абмяжо́ўваць

**scanty** [ˈskænti] adj. 1. недастатко́вы, бе́дны, слабы́: а) ***His scanty clothing did not keep out the cold*** Яго́ная слабáя во́пратка не бараніла ад хо́ладу. б) ***a scanty harvest*** бе́дны ўраджáй

**scapegoat** [ˈskeɪpgoʊt] n. ахвя́рны казёл

**scar I** [skɑ:r] – n. шрам, шнар -а *m.*; рубéц -цá *m.* (*ад ра́ны*)
– v.t. рабі́ць шрам, дра́піну, шкра́баць
– v.i. зарубцо́ўвацца; заго́йвацца, пакі́нуўшы рубе́ц

**scar II** [skɑ:r] n. стро́мкая скалá; стро́ма *f.*; про́рва, бе́здань *f.*, прадо́ньне *n.*

**scarce** [skers] – adj. рэ́дкі, няча́сты, які́ ця́жка дастáць: ***Good cooks are scarce*** До́брых ку́хараў няшмáт
– adv. 1. ледзь, ледзь то́лькі. 2. не зусі́м. 3. наўра́д, наўра́д ці: ***He can scarcely have said that*** Наўра́д ці ён мог гэ́та сказáць

**scarcity** [ˈskersəti] n., pl. **-ties** нястáча *f.*; недахо́п -у *m.*

**scare** [sker] v.t. палóхаць; пужáць (*жывёліну*); лякáць; ***to become scared*** зьлякáцца, спало́хацца; спужáцца

**scarecrow** [ˈskerkroʊ] n. 1. пу́дзіла *n.* 2. худы́, цыба́ты чалаве́к

**scaremonger** [ˈskerˌmʌŋgər] n. страхапу́д -а *m.*, панікёр -а *m.*

**scarf** [skɑ:rf] n. 1. шаль -я *m.*, ша́лік -а *m.*, ху́стачка *f.* 2. га́льштук -а *m.* (*як у ска́ўтаў*)

**scarify** [ˈskærɪfaɪ] v., **-fied, -fying** 1. абдзірáць, рэ́заць (*паве́рхню*). 2. Figur. во́стра крытыкава́ць, зьневажáць. 3. рыхлі́ць (*глéбу*)

**scarlatina** [ˌskɑ:rləˈti:nə] n. *гл.* **scarlet fever**

**scarlet** [ˈskɑ:rlət] n. 1. пунсо́вы, я́ркачырво́ны ко́лер. 2. сукно́, ткані́на *або́* во́пратка пунсо́вага ко́леру

**scarlet fever** шкарлятына *f.*

**scary** [ˈskeri] adj., Informal 1. страшны́. 2. палахлі́вы

**scatter** [ˈskætər] – v.t. 1. раскідáць. 2. разганя́ць: ***The police scattered the mob*** Палі́цыя разагна́ла нато́ўп. 3. Phys. расьсе́йваць (*про́мні сьвятла́*)
– v.i. разыхо́дзіцца ў ро́зныя бакі́, разьбягáцца, рассыпацца
– n. раскідáньне, разганя́ньне, расьсе́йваньне *n.*

**scattered** [ˈskætərd] adj. расьцяру́шаны, раскі́даны (*у ро́зныя ме́сцы*), разагна́ны; Phys. расьсе́яны

**scatter rug** малы́ дывано́к (*на падло́гу*)

**scenario** [səˈnærioʊ] n., pl. **-os** сцэна́р -а́ *m.*

**scenarist** [sɪˈnærəst] n. сцэнары́ст -а *m.*, а́ўтар сцэнара́

**scene** [si:n] n. 1. ме́сца, час дзе́яньня: ***the scene of an accident*** ме́сца здарэ́ньня; ***scene of my childhood*** часы́ майго́ мале́нства. 2. дэкара́цыя на сцэ́не. 3. зья́ва *f.* : ***"Act I, Scene 2"*** «Акт I, зья́ва 2-а́я». 4. сцэ́на *f.* 5. від -у *m.*; во́браз -у *m.*; відо́вішча *n.*
• ***behind the scenes*** за кулі́самі

**scenery** [ˈsi:nəri] n., pl. **-eries** 1. дэкара́цыя на сцэ́не. 2. краявід -у *m.*, ві́даль *f.*: ***mountain scenery*** го́рны краяві́д

**scent** [sent] – n. 1. пах, во́дар -у *m.*: ***the scent of roses*** пах ру́жаў. 2. нюх -у *m.*: ***a keen scent*** чу́лы нюх. 3. парфу́ма *f.*, духі́ *pl. only.*
– v.t. 1. чуць ню́хам. 2. напарфумо́ўваць. 3. напаўня́ць па́хам. 4. падазрава́ць, праню́хваць
• ***be on the scent of*** патра́піць на *чый* сьлед, ісьці́ па *чыі́м* сьле́дзе

**scentless** [ˈsentləs] adj. бяз па́ху

**sceptic** or **skeptic** [ˈskeptɪk] – n. скéптык -а *m.*
– adj. скепты́чны, які́ сумнява́ецца

**sceptical** or **skeptical** [ˈskeptɪkəl] adj. недаве́рлівы, які́ сумнява́ецца; скепты́чны

**scepticism** or **skepticism** [ˈskeptısızəm] n. скептыцы́зм -у *m.*
**sceptre** or **scepter** [ˈseptər] n. 1. скі́пэт|ар -ра *m.* 2. каралéўская *або́* імпэра́тарская ўла́да
**schedule** [ˈskedʒu:l] – n. раскла́д -у *m.*; гра́фік, сьпіс -у *m.*
– v.t. рабі́ць раскла́д; запі́сваць у раскла́д
**scheme** [ski:m] – n. 1. праéкт -у *m.*, прагра́ма дзéяньня; плян -у *m.* 2. та́йная змо́ва ў эгаісты́чных мэ́тах, інтры́га *f.* 3. схéма *f.*: ***a scheme of postal rates*** схéма пашто́вага тары́фу
– v.t. плянава́ць, заду́мваць; рабі́ць змо́ву
**schemer** [ˈski:mər] n. інтрыга́нт -а *m.*, інтрыга́нтка *f.*; змо́ўнік -а *m.*, змо́ўніца *f.*
**schism** [ˈsızəm, ˈskızəm] n. раско́л -у *m.*, разьдзялéньне *n.* 2. схі́зма *f.*, раско́л цэ́ркваў
**schismatic** [sızˈmætık, skızˈmætık] *or* **schismatical** [sızˈmætıkəl] – adj. раско́льніцкі, схізматы́чны
– n. раско́льнік -а *m.*, раско́льніца *f.*; схізма́тык -а *m.*, схізматы́чка *f.*
**schizophrenia** [ˌskıtsəˈfri:niə] n. схізафрэ́нія, шызафрэ́нія *f.*
**schnook** [ʃnʊk] n., Sl. тупі́ц|а, дуры́л|а -ы *m. & f.*
**scholar** [ˈskɑ:lər] n. 1. вучо́н|ы -ага *m.*, вучо́ная *f.*; асо́ба зь вялі́кімі вéдамі. 2. шко́льнік -а *m.*, шко́льніца *f.*, навучэ́н|ец -ца *m.* 3. навучэ́нец-стыпэндыя́нт, навучэ́нка-стыпэндыя́нтка
**scholarly** [ˈskɑ:lərli] adj. 1. вучо́ны: ***scholarly habits*** звы́чкі вучо́нага. 2. зь вялі́кімі вéдамі, высо́каадукава́ны. 3. стара́нны; адда́ны наву́цы
**scholarship** [ˈskɑ:lərʃıp] n. 1. вучо́насьць *f.* 2. стыпэ́ндыя *f.*
**scholastic** [skəˈlæstık] – adj. 1. шко́льны, навуча́льны; адукацы́йны. 2. схалясты́чны; фарма́льны
– n. 1. схаля́ст -а *m.* 2. сярэднявéчны тэо́ляг *або́* філёзаф
**scholasticism** [skəˈlæstıˌsızəm] n. схаля́стыка *f.*
**school I** [sku:l] – n. 1. шко́ла *f.*: ***to attend school*** хадзі́ць у шко́лу, вучы́цца ў шко́ле. 2. наву́ка *f.*; адука́цыя: ***to start school*** пача́ць вучы́цца. 3. ву́чні й наста́ўнікі. 4. шко́льныя заня́ткі: ***There will be no school today*** Сёньня ў шко́ле заня́ткаў ня бу́дзе. 5. шко́ла (*у наву́цы, літарату́ры, маста́цтве*): ***the Dutch school of painting*** галя́ндзкая шко́ла ў маста́цтве
– v.t. 1. вучы́ць. 2. навуча́ць; прывуча́ць
– v.i. навуча́цца, прывуча́цца: ***School yourself to control your temper*** Навучы́ся стры́мваць сваю́ злосьць
– adj. шко́льны
**school II** [sku:l] n. кася́к ры́баў
**school age** 1. шко́льны век. 2. гады́ абавязко́вага навуча́ньня
**school board** мясцо́вы камітэ́т, які́ кіру́е шко́льніцтвам
**schoolbook** [ˈsku:lbʊk] n. падру́чнік -а *m.*
**schoolboy** [ˈsku:lbɔı] n. шко́льнік -а *m.*
**schoolgirl** [ˈsku:lgɜ:rl] n. шко́льніца *f.*
**schoolhouse** [ˈsku:lhaʊs] n. шко́льны буды́нак, шко́ла *f.*
**schooling** [ˈsku:lıŋ] n. 1. навуча́ньне *n.*, адука́цыя. 2. пла́та за вучо́бу
**schoolmaster** [ˈsku:lˌmæstər] n. наста́ўнік -а *m.*, кіраўні́к шко́лы
**schoolmate** [ˈsku:lmeıt] n. шко́льны ся́бра
**schoolmistress** [ˈsku:lˌmıstrəs] n. наста́ўніца *f.*, кіраўні́ца шко́лы
**schoolroom** [ˈsku:lrʊm] n. кля́са *f.* (*пако́й*)
**schoolyard** [ˈsku:ljɑ:rd] n. шко́льны двор
**school year** навуча́льны год
**schooner** [ˈsku:nər] n. 1. шху́на *f.* 2. фурго́н амэрыка́нскіх перасялéнцаў
**sciatic** [saıˈætık] adj. клу́бавы, сяда́лішчны
**sciatic nerve** сяда́лішчны нэрв
**science** [ˈsaıəns] n. 1. вéда *f.*; наву́ка *f.* 2. гралі́ны наву́кі: ***natural sciences*** пры-ро́дазна́ўчыя наву́кі; ***applied sciences*** прыкладны́я наву́кі. 3. умéльства *n.*, тэ́хніка *f.*: ***A good boxer must***

***have science as well as strength and speed*** Дóбры баксёр мýсіць мець тэ́хніку гэ́так жа як і сíлу ды хýткасьць рýхаў

**scientific** [ˌsaɪənˈtɪfɪk] adj. навукóвы

**scientifically** [ˌsaɪənˈtɪfɪkli] adv. навукóва

**scientist** [ˈsaɪəntɪst] n. вучóн|ы -ага, навукóв|ец -ўца *m.* (*асаблíва ў галінé даклáдных навýкаў*)

**scintillate** [ˈsɪntəleɪt] v.i. іскры́цца, зьзяць, зіхацéць

**scion** [ˈsaɪən] n. 1. пáраст|ак, атóжыл|ак -ка *m.* 2. нашчáд|ак -ка *m.*

**scissors** [ˈsɪzərz] n., pl. or sing. нажнíцы *pl. only*

**sclerosis** [skləˈroʊsəs] n., pl. **-ses** склерóз -у *m.*

**sclerotic** [skləˈrɑːtɪk] adj. склерóзны, склераты́чны

**scoff** [skɑːf] – v.i. (at) кпіць, сьмяя́цца, насьміхáцца

– n. 1. кпíны, кéпікі, насьмéшкі *pl.* 2. пасьмéшышча *n.*

**scoffer** [ˈskɑːfər] n. насьмéшнік -а *m.*, насьмéшніца *f.*

**scoffing** [ˈskɑːfɪŋ] adj. зьдзéклівы, насьмéшлівы

**scold** [skoʊld] – v.t. прабірáць, лáяць; свары́цца, крычáць: ***His father scolded him*** Бáцька насвары́ўся на ягó. 2. рабíць вымóву

– n. сварлíвая асóба

**scoop** [skuːp] – n. 1. шýф|ель -ля *m.* 2. чарпáк -á *m.* 3. кухóнны апалóнік, чарпáк *або́* шýфлік -а *m.* 4. эксклюзі|ў -ву *m.*, бóмба *f.*, сэнсацы́йная публікáцыя (*надрукавáная ранéй за канкурэ́нтаў*)

– v.t. 1. а) чэ́рпаць, налівáць, наклaдáць чарпакóм, б) выбірáць (*зямлю́ зь я́мы*). 1. надрукавáць сэнсацы́йную вéстку ранéй за канкурэ́нтаў

**scoopful** [ˈskuːpfəl] adj. пóўны чарпáк, апалóнік *або́* шýфлік

**scoot** [skuːt] v.i., Informal хýтка вы́йсьці, уцячы, змы́цца

**scooter** [ˈskuːtər] n. 1. самакáт -у *m.*, самакáтка *f.* 2. матарóлер -а *m.* 2. бýер -а *m.*

**scope** [skoʊp] n. 1. ахóп -у *m.*; кругагля́д -у *m.* 2. дастýпнасьць для рóзуму *або́* зразумéньня: ***within the scope of child's understanding*** дастýпны для дзіця́чага рóзуму. 2. прастóр -у *m.*, пóле дзéяньня; магчы́масьць *f.*

**scorbutic** [skɔːrˈbjʊtɪk] adj. цынгóтны

**scorch** [skɔːrtʃ] v.t. 1. прыпáльваць: ***to scorch the shirt in ironing it*** прыпалíць кашýлю, прасýючы. 2. высýшваць, спáльваць: ***grass scorched by the sun*** травá спáленая сóнцам. 3. Figur. крытыкавáць пякýчымі, зьéдлівымі слóвамі

**score** [skɔːr] – n. 1. вы́нік гульнí: ***The score was 9 to 2 in our favor*** Вы́нік гульнí быў 9:2 на нáшую кары́сьць. 2. налéжнае *n.*; доўг дóўгу *m.*; рахýн|ак -ку *m.*: ***to pay the score*** заплацíць доўг, налéжнае *або́* рахýнак. 3. два дзяся́ткі, дваццáтка *f.*: ***three scores and ten*** сéмдзесят. 4. Mus. партытýра *f.* 5. руб|éц -цá *m.*, зарýбка, нарýбка *f.* (*на дрэ́ве*)

– v.t. 1. вéсьці падлíк. 2. выйгравáць: ***to score a point*** вы́йграць пункт; ***to score a victory*** атрымáць перамóгу. 3. Mus. а) аркестравáць. б) пісáць партытýру. 4. падкрэ́сьліваць *або́* выкрэ́сьліваць памы́лкі

• ***Don't worry on that score*** Не турбýйся аб гэ́тым

• ***on the score of*** дзéля *чагó*

• ***pay off*** or ***settle a score*** зьвéсьці рахýнкі, адпóмсьціць

• ***scores,*** pl. шмат, вялíкая кóлькасьць: ***scores of times*** шмат разóў

**scorn** [skɔːrn] – v.t. пагарджáць, грэ́баваць: ***to scorn lying*** не апускáцца да маны́, грэ́баваць манóю

– n. 1. пагáрда *f.* 2. прадмéт пагáрды

**scornful** [ˈskɔːrnfəl] adj. пагáрдлівы, зьнявáжлівы, насьмéшлівы, пóўны пагáрды

**scornfulness** [ˈskɔːrnfəlnəs] n. пагардлівасьц|ь -і *f.*

**scotch** [skɑːtʃ] v.t. 1. абясшкóджваць: ***to scotch a snake*** абясшкóдзіць ву-

жáку. 2. спыня́ць пашырэ́ньне (*вéсткі*). 3. надрэ́зваць, глыбóка разрэ́зваць. 4. заклíньваць, спыня́ць (*напр. рух кóла*)

**Scotch** [skɑ:tʃ] – adj. шатля́ндзкі
– n. жыхáр Шатля́ндыі; шатля́нд|зец -ца *m.*, шатля́ндка *f.* 2. шатля́ндзкае віскі

**Scotchman** [ˈskɑ:tʃmən] n., pl. **-men** *гл.* **Scotsman**

**scotch tape** клéйкая стýжка, скоч -а *m.*

**Scots** [skɑ:ts] – adj. шатля́ндзкі
– n., pl. шатля́ндцы; жыхары́ Шатля́ндыі

**Scots-Gaelic** [ˌskɑ:tsˈgeɪlɪk] n. шатля́ндзкая *абó* гэ́льская мóва

**Scotsman** [ˈskɑ:tsmən] n., pl. **-men** *or* **Scot** шатля́нд|зец -ца *m.*; жыхáр Шатля́ндыі

**scoundrel** [ˈskaʊndrəl] n. нягóднік -а *m.*, падлю́г|а -і *m. & f.*

**scoundrelly** [ˈskaʊndrəli] adj. нягóдніцкі, пóдлы

**scour I** [skaʊr] v.t. шаравáць; чы́сьціць: ***mother scours the pan*** мáці шарýе патэ́льню

**scour II** [skaʊr] v.t. 1. аб'яжджáць, аббягáць, абшны́рваць: ***They scoured the country looking for the lost child*** Яны́ абéзьдзілі ўсю мясцóвасьць, шукáючы прапáлае дзіця́. 2. шукáць, вышýкваць: ***to scour one's memory for a forgotten date*** старáцца прыпóмніць забы́тую дáту

**scourge** [skɜ:rdʒ] – n. 1. бізýн -á *m.*, пýга *f.* 2. кáра *f.* 3. Figur. напáсьць, бядá *f.*
– v.t. карáць

**scout** [skaʊt] – n. 1. вывéднік, разьвéдчык -а *m.*, вывéдніца, разьвéдчыца *f.* 2. вывéдніцкі самалёт *абó* карабéль. 3. выьвéдваньне *n.*, вывéдка, разьвéдка *f.* 4. скаўт -а *m.*
– v.t. а) вывéдваць, разьвéдваць. б) шукáць: ***Go and scout for firewood*** Ідзí і пашукáй дрóваў для вóгнішча. 2. назірáць; сачы́ць

**scow** [skaʊ] n. вялíкая плоскадóнка (*лóдка*)

**scowl** [skaʊl] – v.i. хмýрыцца, насýплівацца
– v.t. выкáзваць са злóсьцю: ***to scowl one's disapproval*** вы́казаць злóсна сваё незадавальнéньне
– n. панýры, змрóчны вы́гляд

**scrabble** [ˈskræbəl] – v. 1. дрáпаць, скрэ́бці; карáскацца. 2. крэ́мзаць, неахáйна пісáць. 3. Figur. рóспачна змагáцца: ***to scrabble for a living*** бíцца, як ры́ба аб лёд
– n. 1. дрáпаньне *n.*; крэ́мзаньне *n.* 2. змагáньне *n.*

**scramble** [ˈskræmbəl] – v.i. 1. узьбірáцца; працíскáцца. 2. змагáцца, тýзацца: ***The boys scrambled to get the football*** Хлапцы́ піхáліся, каб схапíць мяч
– v.t. 1. зьбірáць, калекцыянавáць без сыстэ́мы. 2. пячы́ яéчню-баўтýшку
– n. бóйка, тузанíна *f.*

**scrap I** [skræp] – n. 1. кавáлач|ак -ка *m.*, рэ́штка *f.*; аб'éдкі: ***scraps of food*** аб'éдкі. 2. уры́|вак -ўка *m.* (*зь лістá, кнíгі*): ***scraps of songs*** уры́ўкі зь пéсьняў. 3. мэталалом, скрап -у *m.*
– v.t. 1. ламáць, пераствaрáць у лом. 2. выкідáць як непатрэ́бнае
• ***scraps,*** pl. сквáркі *pl.*

**scrap II** [skræp] v.i. **(-pp-)** Informal бíцца; калацíцца; сварыцца, вáдзіцца

**scrapbook** [ˈskræpbʊk] n. альбóм для наклéйваньня (*газэ́тных вы́разак, узóраў*)

**scrape** [skreɪp] – v.t. 1. саскрабáць; счышчáць. 2. абдзірáць. 3. шóргаць (*нагáмі*); шóрхаць: ***The branch of the tree scraped against the window*** Галíна дрэ́ва шóрхала аб вакнó. 4. выкóпваць, выграбáць: ***to scrape a hole in the sand*** вы́капаць я́мку ў пяскý. 5. наскрабáць: ***to scrape together enough money*** зь ця́жкасьцю наскрэ́бці дастаткóва грóшай
– n. 1. саскрэ́бваньне, счышчáньне *n.* 2. дрáпіна *f.* 3. скрып -у *m.* 4. шáрканьне *n.* (*нагóю*). 5. Figur. клóпаты *pl.*, ця́жкасьці *pl.*; бядá *f.*: ***Boys often***

***get into scrapes*** Хлапцы́ ча́ста трапля́юць у бяду́

• ***just scrape along*** ледзь перабіва́цца, ледзь зво́дзіць канцы́ з канца́мі

• ***scrape through the examination*** ледзь прале́зьці, ледзь здаць экза́мэн

**scrap iron** мэталалом -у *m.*, жале́знае лама́чча

**scrappy I** [ˈskræpi] adj. 1. зро́блены з рэ́штак, аста́ткаў. 2. несуцэ́льны, бязла́дны, бяз су́вязі, нясклáдны

**scrappy II** [ˈskræpi] adj., Sl. задзі́рысты; сварлі́вы

**scratch** [skrætʃ] – v.t. 1. абдзіра́ць; ша́рпаць: ***Your shoes have scratched the floor*** Ты паша́рпаў чараві́камі падло́гу. 2. дра́паць; рабі́ць дра́піны: ***The cat scratched him*** Кот падра́паў яго́. 3. чу́хаць: ***He scratched his head*** Ён пачу́хаў галаву́. 4. чы́ркаць: ***to scratch a match on the wall*** чыркану́ць запа́лкай аб сьцяну́. 5. крэ́мзаць; пі́саць сьпяша́ючыся. 6. зь ця́жкасьцю сабра́ць або́ наскрэ́бсьці (*гро́шай*)

– v.i. 1. дра́цца; дра́пацца. 2. чу́хацца. 3. рыпе́ць, дра́паць (*пра пяро́*). 4. зь ця́жкасьцю дава́ць ра́ды

– n. 1. дра́піна *f.* 2. скрып, рып -у *m.*, дра́паньне *n.*: ***the scratch of a pen*** дра́паньне пяра́ (*гук*). 3. Sport. лі́нія ста́рту

– adj. 1. сабра́ны насьпе́х, збо́рны: ***a scratch meal*** згатава́ны насьпе́х абе́д *або́* вячэ́ра; ***a scratch football team*** сабра́ная насьпе́х футбо́льная кама́нда. 2. выпадко́вы: ***a scratch shot*** выпадко́вы стрэл

• ***from scratch*** зь ніч́ога, з нуля́ (*пачына́ць*)

• ***scratch out*** выкрасьля́ць

• ***up to scratch*** Informal да нале́жнае вышыні́; у до́брым ста́не: ***The boxer is training for the fight but he isn't up to scratch yet*** Баксёр рыхту́ецца да ма́тчу, але́ яшчэ́ не дасягну́ў нале́жнага ўзро́ўню

**scratchy** [skrætʃi] adj. 1. які́ дзярэ́, рыпі́ць (*напр. пяро́*). 2. накрэ́мзаны: ***a scratchy drawing*** накрэ́мзаны малю́нак; ***scratchy writing*** неаха́йнае піса́ньне, крэ́мзаньне

**scrawl** [skrɔ:l] – v.t. неакура́тна, невыра́зна піса́ць, крэ́мзаць

– n. 1. благі́, невыра́зны по́чырк. 2. не́шта накрэ́мзанае насьпе́х

**scream** [skri:m] – v.i. 1. вішча́ць, верашча́ць, крыча́ць. 2. Figur. нястры́мна рагата́ць, захо́дзіцца ад сьме́ху. 3. го́ласна гавары́ць

– n. 1. прарэ́зьлівы крык, віск -у *m.* 2. Informal не́шта *або́* не́хта ве́льмі сьме́шны, адзі́н сьмех

**screaming** [skri:mɪŋ] adj. 1. віскл́івы, вераскл́івы. 2. Figur. ве́льмі сьме́шны: ***a screaming farce*** ве́льмі сьме́шны фарс. 3. Figur. крыклі́вы: а) ***screaming headlines*** крыклі́выя загало́ўкі. б) ***screaming colors*** крыклі́выя ко́леры

**screech** [skri:tʃ] – v. вішча́ць; верашча́ць, крыча́ць

– n. віск, крык -у *m.*

**screech owl** сава́-сіпу́ха

**screen** [skri:n] – n. 1. засло́на *f.*; шы́рма *f.*: ***a folding screen*** ство́ркавая шы́рма; ***smoke screen*** ды́мавая засло́на. 2. се́тка ад мух. 3. экра́н -у *m.* (*у кіно́*). 4. кінафі́льмы, фі́льмы *pl.* 5. рэ́шата, сі́та *n.*, падсі́т|ак -ка *m.* 6. прыкрыцьцё *n.*; засло́н -а *m.* (*вайско́вы*)

– v.t. 1. хава́ць, абараня́ць, засланя́ць. 2. дэманстрава́ць на экра́не. 3. здыма́ць фільм. 4. а) прасява́ць, прасе́йваць. б) правяра́ць я́касьць *або́* адпаве́днасьць

**screw** [skru:] – n. 1. шру́ба, шру́бка *f.* 2. паваро́т шру́бы; шру́бавы рух. 3. Informal скна́р|а, жмі́нд|а -ы *m.* & *f.* 4. вінт (*самалёта*); грабны́ вінт (*парапла́ва*)

– v.t. 1. закру́чваць: ***to screw the lid on the jar*** закруці́ць ве́чка на сло́ік. 2. зашрубо́ўваць а): ***to screw down*** or ***on*** прышрубава́ць *што*, прымацава́ць

да *чагó* шрýбамі. б) ***to screw off*** адкруціць, адшрубавáць. 3. націскáць, прыціскáць: ***to screw information out of a person*** сілай вы́цягнуць зь нéкага вéсткі. 4. перакóшваць, рабіць касы́м: ***His face was screwed up with fear*** Твар у яго перакасіла ад стрáху

– v.i. круціцца, як шрýба

• ***He has a screw loose,*** Sl. У яго клёпкі не стаé

• ***put the screws on,*** Informal націскáць на *кагó*, сілай вымагáць

• ***screw up,*** Sl. сапсавáць, спартóліць, спартáчыць

• ***screw up enough courage*** набрáцца адвáгі

• ***tighten the screw*** зацiскáць, закрýчваць гáйкі

**screwdriver** [ˈskru:ˌdraɪvər] n. зáшрубка, адвёртка *f.*, шрубакрýт -а *m.*

**screw propeller** вінт -а *m.* (*параплáва абó самалёта*)

**scribble** [ˈskrɪbəl] – v.t. невырáзна пісáць, чы́ркаць, крэ́мзаць; малявáць абы як

– n. крэ́мзаньне *n.*

**scribbler** [ˈskrɪblər] n. 1. чарнавы́ сшы́так. 2. пісáк|а -і *m. & f.*, пэ́цкал|ь -я *m.* (*пра слабóга пісьмéньніка*)

**scribe** [skraɪb] n. 1. перапíсчык кнíгаў; пíсар -а *m.* 2. áўтар, пісьмéньнік -а *m.*

**script** [skrɪpt] n. 1. рýкапіс -у *m.* 2. скрыпт -у *m.*; рýкапіс абó машы́напіс а) п'éсы, рóляў паасóбных актóраў, б) тэ́кстаў для ды́ктара рáдыё абó тэлевíзіі. 3. рýкапісны шрыфт (*для дрýку*). 4. Law арыгінáл дакумэ́нту (*у адрóзьненьне ад кóпіі*)

**scriptural** or **Scriptural** [ˈskrɪptʃərəl] adj. біблíйны; павóдле Сьвятóга пісьмá, якí абапірáецца на Сьвятóе пісьмó

**Scripture** [ˈskrɪptʃər] n. 1. Бíблія *f.* 2. Сьвятóе пісьмó. 3. ***Moslem scriptures*** Карáн -а *m.*, сьвятáя кнíга мусульмáнаў

**scriptwriter** [ˈskrɪptˌraɪtər] n. 1. сцэнары́ст -а *m.* 2. áўтар тэ́кстаў для радыё- і тэлеперадáчаў

**scroll** [skroʊl] – n. 1. скрýтак (*пэргáмэнту абó папéры*). 2. сьпіс імёнаў, падзéяў

– v.t. Comput. пракрýчваць

**scrotal** [ˈskroʊtəl] adj., Anat. машóначны

**scrotum** [ˈskroʊtəm] n., pl. **-ta**, **-tums** Anat. машóнка *f.*

**scrounge** [skraʊndʒ] v., Sl. 1. выпрóшваць, клянчыць. 2. крáсьці. 3. жыць за чужы́ кошт

**scrub I** [skrʌb] – v.t. **(-bb-)** шаравáць, мыць *абó* чы́сьціць, шарýючы

– n. шаравáньне *n.*

**scrub II** [skrʌb] – n. 1. нізкарóслыя дрэ́вы *абó* кусты́. 2. нізкарóслы чалавéк *абó* жывёліна. 3. Sport. рэзэ́рва *f.*, запáс -у *m.*

– adj. малы́, благí, слабы́; гóршы

**scrubby** [ˈskrʌbi] adj. нíзкі, нізкарóслы; малы́: ***scrubby trees*** нізкарóслыя дрэ́вы

• ***scrubby land*** зáрасьнік -у *m.*

**scruff** [skrʌf] n. загры́|вак -ýку, кáр|ак -ку *m.*: ***to take somebody by the scruff*** узяць нéкага за кáрак

**scruple** [ˈskru:pəl] – n. 1. згрызóта *f.*: ***Man of no scruples*** Чалавéк без згрызóтаў, нядóбрасумлéнны. 2. сумнé|ў -ву *m.*, пачуцьцё няёмкасьці, нязрýчнасьці *абó* сóраму: ***She has scruples about playing cards for money*** Янá сарóмеецца гуляць у кáрты на грóшы. 3. скрýпул -а *m.* (*старáя адзíнка аптэ́карскае вагí*). 4. кры́ха *f.*

– v.i. вагáцца, сарóмецца: ***A dishonest man does not scruple to deceive others*** Несумлéнны чалавéк не вагáецца ашýкваць другíх

**scrupulous** [ˈskru:pjələs] adj. 1. добрасумлéнны. 2. даклáдны да дрóбязяў, скрупулёзны

**scrutineer** [ˌskru:tənˈɪr] n. 1. назірáльнік, інспэ́ктар -а *m.* 2. Brit. кантралёр, назірáльнік на вы́барах

**scrutinize** [ˈskru:tənaɪz] v.t. увáжліва правярáць, дасьлéдаваць; пíльна разглядáць

**scrutiny** [ˈskru:təni] n., pl. **-nies** 1. даклáднае дасьлéдаваньне; увáжлівая

праве́рка, разгля́д. 2. дапы́тлівы по́зірк

**scuffle** [ˈskʌfəl] – v.i. бі́цца, чу́біцца
– n. бо́йка *f.*

**scull** [skʌl] – n. 1. кармаво́е вясло́. 2. адно́ з бакавы́х вёслаў. 3. лёгкі го́начны чо́вен
– v.i. веслава́ць

**sculpt** [skʌlpt] v.t., Informal ляпі́ць, высяка́ць, часа́ць (*з ка́меня, ма́рмуру*), выраза́ць скульпту́ру (*з дрэ́ва, ко́сьці*)

**sculptor** [ˈskʌlptər] n. разьбя́р -а́ *m.*, ску́льптар -а *m.*

**sculptress** [ˈskʌlptrəs] n. разьбя́рка, ску́льптарка *f.*

**sculpture** [ˈskʌlptʃər] – n. скульпту́ра *f.*
– v.t. 1. высяка́ць; часа́ць, выраза́ць; ляпі́ць. 2. пакрыва́ць *або́* ўпрыго́жваць разьбо́ю

**scum** [skʌm] – n. 1. шумаві́ньне *n.*, шум -у *m.*, пе́на *f.*; на́кіп -у *m.* 2. Informal ні́зкі, по́длы чалаве́к: ***scum of the earth*** адкі́ды *pl.*, падо́ньне грама́дзтва
– v.i. 1. пе́ніцца, пакрыва́цца пе́най *або́* на́кіпам. 2. здыма́ць пе́ну, на́кіп

**scummy** [ˈskʌmi] adj. 1. пе́ністы, зь пе́най. 2. нікчэ́мны, ні́зкі, по́длы

**scurf** [skɜ:rf] n. пе́рхаць *f.* (*на галаве́*)

**scurvy** [ˈskɜ:rvi] – n. цынга́ *f.*
– adj. ні́зкі; по́длы; нікчэ́мны

**scutch** [skʌtʃ] – v.t. трапа́ць (*лён, кано́плі*)
– n. трапа́льная машы́на *або́* прыла́да

**scythe** [saɪð] – n. 1. каса́ *f.*: ***handle of the scythe*** касьсё, касі́льна *n.*
– v.t. касі́ць

**sea** [si:] n. 1. мо́ра *n.* 2. вялі́кае во́зера. 3. мо́цная хва́ля: ***a high sea*** высо́кія мо́цныя хва́лі
• ***be at sea*** а) быць у адкры́тым мо́ры; на караблі́. б) Informal гавары́ць наўздага́д, пла́ваць; памыля́цца
• ***follow the sea*** быць марако́м
• ***go to sea*** а) пайсьці́ ў маракі́. б) пусьці́цца ў марско́е падаро́жжа
• ***high sea*** а) высо́кія мо́цныя хва́лі. б) адкры́тае мо́ра
• ***put to sea*** пача́ць марско́е падаро́жжа

**seabed** [ˈsi:bed] n. марско́е дно

**sea breeze** марскі́ ве́цер, брыз -у *m.*

**sea calf** фо́ка *f.*, цюле́нь -я *m.*

**sea coast** марско́е ўзьбярэ́жжа

**sea dog** 1. стары́, быва́лы, дасьве́дчаны мара́к; марскі́ воўк. 2. цюле́нь -я *m.*

**seafood** [ˈsi:fu:d] n. ядо́мыя марскі́я праду́кты (*ры́бы, ракападо́бныя*): ***seafood restaurant*** ры́бны рэстара́н

**seagull** марска́я ча́йка

**seal I** [si:l] – n. 1. пяча́ць, пяча́тка *f.* 2. кляймо́ *n.*; знак -у *m.*, эмбле́ма *f.* 3. кіт -у *m.*, шпаклёўка *f.*; ізаля́тар -у *m.* 4. спэцыя́льная ма́рка: ***Christmas seals*** каля́дныя ма́ркі. 5. Figur. умо́ва; прыся́га: ***under seal of secrecy*** пад сакрэ́там
– v.t. 1. прыпяча́тваць, ста́віць пяча́тку: ***The treaty was signed and sealed by both governments*** Умо́ва была́ падпі́саная і прыпяча́таная або́двума ўра́дамі. 2. шчы́льна закрыва́ць, закле́йваць, зама́зваць: ***She sealed the jars of fruit*** Яна́ гэрмэты́чна закры́ла сло́ікі з садавіно́ю; ***to seal the letter*** закле́іць ліст. 3. выраша́ць, прадвызнача́ць: ***to seal someone's fate*** прадвы́значыць не́чый лёс
• ***receive (return) the seals*** прыня́ць (здаць) паса́ду міні́стра
• ***set one's seal to*** прыкла́сьці пяча́ць да *чаго́*; ухвалі́ць, апрабава́ць
• ***the seals*** азна́ка дзяржа́ўнай паса́ды

**seal II** [si:l] – n. **seals** or **seal,** coll. 1. цюле́нь -я *m.*, марскі́ ко́цік. 2. ко́цікавае фу́тра
– v.t. палява́ць на цюле́няў

**sealer** [ˈsi:lər] n. 1. паляўні́чы на цюле́няў. 2. карабе́ль для палява́ньня на цюле́няў

**sea level** узро́вень мо́ра

**sealing wax** сургу́ч -у́ *m.*

**seam** [si:m] – n. 1. шво *n.* 2. шрам -у *m.*, рубле́ц -ца́ *m.* 3. Geol. пласт -а́ *m.*: ***a seam of coal*** пласт вугля́

– v.t. 1. страчы́ць шво, сшыва́ць швом. 2. Figur. баразьні́ць; зрэ́зваць маршчы́намі, мо́ршчыць: ***Years of worrying seamed his brow*** Гады́ згрызо́таў збаразьні́лі ягóны лоб маршчы́намі

• ***burst at the seams*** трашча́ць па швах

• ***come apart at the seams*** разарва́цца, разьляце́цца, заняпа́сьці

**seaman** [ˈsi:mən] n., pl. **-men** радавы́ мара́к, матро́с -а *m.*

**seamanship** [ˈsi:mənʃɪp] n. майстэ́рства марапла́ваньня; марска́я пра́ктыка

**sea mile** марска́я мі́ля

**seamstress** [ˈsi:mstrɪs] n. шва́чка *f.*

**seance** [ˈseɪɑ:ns] n. 1. сэа́нс -у *m.* (*пака́з фі́льму*). 2. сьпірыты́чны сэа́нс

**seaplane** [ˈsi:pleɪn] n. гідрасамалёт, гідрапля́н -а *m.*

**seaport** [ˈsi:pɔ:rt] n. 1. марскі́ порт. 2. парто́вы го́рад, парто́вае ме́ста

**sear** [sɪr] v.t. 1. прыпяка́ць, апяка́ць; прыпа́льваць, абпа́льваць: ***The trees were seared by lightning*** Дрэ́вы былí апа́леныя мала́нкай. 2. выпяка́ць, высу́шваць. 3. Figur. прытупля́ць: ***seared conscience*** прыту́пленае сумле́ньне

**search** [sɜ:rtʃ] – v.i. 1. шука́ць, абшу́кваць. 2. перагляда́ць. 3. дасьле́даваць, вышу́кваць

– n. по́шукі *pl. only.*

• ***in search of*** у по́шуках *каго́*, шука́ючы *каго́-чаго́*

• ***search out*** а) шука́ць *каго́-чаго́.* б) знайсьці́ ў вы́ніку по́шукаў

**searching** [ˈsɜ:rtʃɪŋ] adj. 1. дапы́тлівы: ***a searching gaze*** дапы́тлівы по́зірк. 2. назіра́льны, пранí клівы. 3. Figur. пранí зьлівы, во́стры: ***a searching wind*** пранí зьлівы ве́цер

**searchlight** [ˈsɜ:rtʃlaɪt] n. пражэ́ктар -а *m.*

**search warrant** о́рдэр на ператру́с, во́быск

**sea shell** марска́я ра́кавінка

**sea shore** [ˈsi:ʃɔ:r] n. марско́е ўзьбярэ́жжа

**seasick** [ˈsi:sɪk] adj. які́ це́рпіць ад марско́й хваро́бы

**seasickness** [ˈsi:sɪknəs] n. марска́я хваро́ба

**seaside** [ˈsi:saɪd] – n. узмо́р'е *n.*, марско́е ўзьбярэ́жжа

– adj. узьбярэ́жны, на ўзьбярэ́жжы, набярэ́жны

**season** [ˈsi:zən] – n. 1. пара́ *f., pl.* по́ры. а) адна́ з чатыро́х по́раў го́ду. б) час, пэры́яд -у *m.*: ***the Christmas season*** каля́дная пара́; ***the harvest season*** жніўна́я пара́, час жніва́. 2. сэзо́н -у *m.*: ***the baseball season*** сэзо́н бэйсбо́лу. 3. адпаве́дная пара́

– v.t. прыпраўля́ць, дадава́ць прыпра́вы: ***to season soup with salt*** пасалі́ць суп. 2. ***to season conversation with wit*** ажыві́ць гу́тарку до́сьціпамі. 3. сушы́ць, высу́шваць, вытры́мваць, рабі́ць прыда́тным будаўні́чы лесаматэрыя́л. 4. прызвыча́йваць да *чаго́*, гартава́ць. 5. зьмякча́ць: ***to season justice with mercy*** зьмя́кчыць прысу́д мíласэ́рнасьцю

• ***for a season*** не́йкі час

• ***in good season*** до́сыць ра́на

• ***in season*** а) у сэзо́не. б) у пару́, у час, своечасо́ва

• ***out of season*** не ў пару́, ня ў час

**seasonable** [ˈsi:zənəbəl] adj. 1. адпаве́дны сэзо́ну. 2. своечасо́вы, у час: ***seasonable aid*** дапамо́га якра́з у час

**seasonal** [ˈsi:zənəl] adj. сэзо́нны: а) ***a seasonal worker*** сэзо́нны рабо́тнік. б) адпаве́дны пары́ го́ду (*напр. надво́р'е*). 2. пэрыяды́чны

**seasoning** [ˈsi:zənɪŋ] n. 1. прыпра́вы, спэ́цыі *pl.* 2. Figur. аздо́ба *f.*: ***Conversation with a sesoning of wit*** Гу́тарка ажы́ўленая гу́марам

**season ticket** сэзо́нны білéт

**seat I** [si:t] – n. 1. крэ́сла *n.*, ла́ўка *f.*: ***have (take) a seat*** сяда́й. 2. ме́сца ў тэа́тры: ***We have reserved seats in the first balcony*** Мы заказа́лі біле́ты на пе́ршым балько́не. 3. ме́сца ў парля́мэнце: ***to win a seat*** быць вы́бра-

ным (*у парлямэ́нт*): ***to lose one's seat*** ня быць пераабра́ным. 4. сядзе́ньне; сяда́лішча n. (*ча́стка це́ла*). 5. паса́дка f. (*ко́ньніка*)

– v.t. 1. садзі́ць. 2. зьмяшча́ць; мясьці́ць: ***The stadium seats thirty thousand people*** Стадыён ме́сьціць трыццаць ты́сячаў людзе́й

• ***be seated*** a) сяда́ць, се́сьці: ***Please be seated*** Калі ла́ска, сяда́йце. б) быць паса́джаным: ***He was seated in ...*** Ён сядзе́ў у ...

**seat II** [si:t] n. 1. асяро́д|ак -ку m., цэнт|ар -ру m., сядзі́ба f.: ***A university is a seat of learning*** Унівэрсытэ́т — асяро́дак наву́кі. 2. дом -у m., рэзыдэ́нцыя f. 3. месцазнахо́джаньне n.

**seat belts** рамяні́ бясьпе́кі

**sea urchin** марскі́ во́жык

**sea wall** да́мба f.

**seaward** [ˈsi:wərd] – adv. у бок мо́ра

– adj. зьве́рнуты ў бок мо́ра

**seaweed** [ˈsi:wi:d] n. марскі́я во́дарасьці

**seaworthy** [ˈsi:ˌwɜ:rði] adj. прыда́тны для марапла́ваньня (*пра карабе́ль*)

**secant** [ˈsi:kənt] – n. Geom. сяку́чая f.

– adj. перасяка́льны, перасе́чны

**secede** [sɪˈsi:d] v.i. аддзяля́цца, адшчапля́цца, адступа́цца, выхо́дзіць

**secession** [sɪˈseʃən] n. выступле́ньне n., вы́хад -у m. (*з арганіза́цыі, зьвя́зу*), раско́л -у m.

**secessionist** [siiˈseʃənɪst] n. адсту́пнік, раско́льнік -а m., адсту́пніца, раско́льніца f.

**seclude** [sɪˈklu:d] v.i. адасабля́цца

**secluded** [sɪˈklu:dɪd] adj. 1. адасо́блены, само́тны, адзіно́кі. 2. глухі́, заці́шны: ***a secluded place*** заку́т|ак -ка m., заці́шнае ме́сца

**seclusion** [sɪˈklu:ʒən] n. 1. адасо́бліваньне n., адасо́бленасьць f.: ***to live in seclusion*** жыць у само́це, адасо́блена. 2. глухі́ заку́так

**second I** [ˈsekənd] – adj. 1. другі́. 2. дру́гасны: ***cloth of second quality*** сукно́ дру́гаснае я́касьці

– n. 1. друг|і́ -о́га m., друга́я f. 2. сэкунда́нт -а m.

– v.t. 1. падтры́мваць. 2. ухваля́ць, згаджа́цца: ***to second a motion*** падтрыма́ць прапано́ву

• ***at second hand*** з другі́х рук, пасярэ́дне, праз пасярэ́дніцтва: ***a report received at second hand*** паведамле́ньне, атрыма́нае з другі́х рук (*праз пасярэ́дніка*)

• ***seconds,*** pl. 1. тава́ры друго́га (го́ршага) гату́нку. 2. друга́я по́рцыя (*пры абе́дзе*)

**second II** [ˈsekənd] n. 1. сэку́нда (*адзі́нка ча́су*). 2. сэку́нда (*адзі́нка вымярэ́ньня куто́ў*)

**secondary** [ˈsekənderi] – adj. 1. пабо́чны, другара́дны. 2. неарыгіна́льны; вытво́рны (*пра сло́ва*). 3. Electr. дру́гасны (*пра ток*)

– n. 1 паднача́лен|ы -ага m. 2. пабо́чны на́ціск. 3. памо́чнік -а m.

**secondary school** сярэ́дняя шко́ла

**second-class** [ˌsekəndˈklæs] – adj. 1. друго́е кля́сы (*ваго́н, біле́т, по́шта*). 2. другара́дны; го́ршага гату́нку

– adv. 1. ***to travel second-class*** падаро́жнічаць друго́й кля́сай. 2. пасыла́ць по́штай друго́е кля́сы

**second hand** сэку́ндная стрэ́лка

**second-hand** [ˌsekəndˈhænd] adj. 1. неарыгіна́льны; з другі́х рук. 2. няно́вы, пано́шаны, ужыва́ны: ***a second-hand store*** кра́ма ужыва́ных рэ́чаў

**secondly** [ˈsekəndli] adv. па-друго́е.

**second-rate** [ˌsekəndˈreɪt] adj. другара́дны, другая́касны

**secrecy** [ˈsi:krəsi] n., pl. **-cies** 1. сакрэ́тнасьць f.: ***in secrecy*** пад сакрэ́там. 2. скры́тнасьц|ь, няшчы́расьць f.

**secret** [ˈsi:krət] – adj. 1. патае́мны, сакрэ́тны: a) ***a secret marriage*** патае́мнае жані́мства. б) ***a secret society*** та́йнае тава́рыства. в) ***a secret agent*** сакрэ́тны аге́нт (*вые́дкі*). 2. схава́ны, замаскава́ны; скры́ты: ***a secret passage*** схава́ны прахо́д; ***a secret place*** глуха́я мясьці́на

– n. таямніца *f.*, сакрэт -у *m.*
• ***in secret*** пад сакрэтам; употай

**secretly** [ˈsi:krətli] adv. употай, употайкі, употайку; патаемна, пакрыёма, скрытна

**secretarial** [ˌsekrəˈteriəl] adj. сакратарскі: ***secretarial work*** сакратарская праца

**secretariat** [ˌsekrəˈteriət] n. 1. пасада сакратара, сакратарства *n.* 2. сакратарыят -а *m.*: ***the United Nations Secretariat*** Сакратарыят Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў

**secretary** [ˈsekrəteri] n., pl. **-taries** 1. сакратар -а *m.*, сакратарка *f.* 2. міні́ст|ар -ра *m.* (*у Англіі й ЗША*): ***the Secretary of the Treasury*** міністар фінансаў. 3. сакрэтнік -а *m.* (*пісьмовы стол*)

**secretary-general** n., pl. **-ries-general** генэральны сакратар: ***the Secretary-General of the United Nations*** Генэральны Сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў

**secrete** [sɪˈkri:t] v.t. 1. трымаць у сакрэце; утойваць, хаваць. 2. выдзяляць, выробляць: ***Glands in the mouth secrete saliva*** Залозы ў роце выдзяляюць сьліну

**secretion** [sɪˈkri:ʃən] n. 1. хаваньне, утойваньне, скрываньне *n.* 2. сакрэцыя: ***Bile is the secretion of the liver*** Жоўць — сакрэцыя печані

**secretive** [ˈsi:krətɪv] adj. 1. скрытны, няшчыры. 2. [sɪˈkri:tɪv] выдзяляльны (*пра залозу*)

**secret service** выведная служба, выведка *f.*

**sect** [sekt] n. сэкта *f.*

**sectarian** [sekˈteriən] – adj. сэктанцкі
– n. сэктант -а *m.*, сэктантка *f.*

**section** [ˈsekʃən] – n. 1. частка *f.*, адрэзаны кавал|ак -ка *m.* 2. параграф, падраздзел -у *m.*, частка *f.* (*кнігі*): ***Chapter X has seven sections*** Дзясяты разьдзел мае сем падраздзелаў. 3. вобласьць *f.*, раён, рэгіён -у *m.* (*краю*); квартал -у *m.* (*места*): ***The city has a business section and a residential section*** Места мае камэрцыйны квартал і жылы квартал. 4. рэзаньне (*на часткі*); разрэз -у *m.* 5. адцінак (*чыгункі, дарогі*). 6. прэпарат -а *m.* (*тканкі, мінэралу*). 7. купэ, *n., indecl.* (*у вагоне*)
– v.t. рэзаць, дзяліць на часткі

**sectional** [ˈsekʃənəl] adj. 1. мясцовы, рэгіянальны: ***sectional interests*** мясцовыя, рэгіянальныя інтарэсы. 2. з частак, складны, разборны: ***a sectional bookcase*** разборная кніжная этажэрка

**sector** [ˈsektər] n. 1. Geom. сэктар -у *m.* 2. Milit. участак абароны

**secular** [ˈsekjələr] – adj. 1. сьвецкі, нерэлігійны: ***secular music*** сьвецкая музыка; ***a secular education*** сьвецкая адукацыя. 2. стогадовы, які бывае раз на 100 гадоў, векавы. 3. векавечны
– n. сьвецкі сьвятар (*не манах*)

**secure** [sɪˈkjʊr] – adj. 1. бясьпечны; пэўны; надзейны: ***a secure hiding place*** бясьпечнае схо́вішча; ***a secure investment*** пэўнае капіталаўкладаньне. 2. спакойны, забясьпечаны: ***He hoped for a secure old age*** Ён спадзяваўся на забясьпечаную старасьць. 3. моцны, надзейны
– v.t. 1. забясьпечваць; гарантаваць (*пазыку*). 2. умацоўваць, замацоўваць. 3. даставаць, набываць: ***to secure tickets for a play*** набыць білеты на спэктакль
– v.i. забясьпечвацца

**security** [sɪˈkjʊrəti] n., pl. **-ties** 1. бясьпека, бясьпечнасьць *f.*; ахова, абарона *f.* 2. пэўнасьць, упэўненасьць *f.* 3. забесьпеячэньне *n.* (*пазыкі*), гарантыя *f.*; парука *f.*; заклад -у *m.*
***securities,*** pl. каштоўныя паперы, аблігацыі, вэксьлі

**Security Council** Рада Бясьпекі

**sedan** [sɪˈdæn] n. сэдан -а *m.* (*род аўтамабіля*)

**sedate** [sɪˈdeɪt] adj. спакойны, ціхі; паважны, стрыманы

**sedation** [sɪˈdeɪʃən] n. заспакаéньне, супакаéньне *n.*

**sedative** [ˈsedətɪv] – n. заспакаяльны срóдак
– adj. 1. бóлеспатóльны. 2. заспакаяльны

**sedge** [sedʒ] n. асакá *f.*

**sediment** [ˈsedɪmənt] n. 1. асáд|ак -ку *m.* 2. Geol. нанóс -у *m.*

**sedimental** [ˌsedɪˈmentəl] *or* **sedimentary** [ˌsedɪˈmenteri] adj. 1. асáдкавы. 2. Geol. утвóраны з асáдкаў *абó* нанóсаў

**sedition** [sɪˈdɪʃən] n. падбухтóрваньне да бýнту, агітáцыя супрóць урáду

**seditious** [sɪˈdɪʃəs] adj. 1. падрыўны́. 2. бунтáрскі, бунтóўны; збунтавáны

**seduce** [sɪˈdu:s] v.t. 1. спакушáць. 2. звóдзіць, зьбівáць з прáвільнага шляху; зьвóдзіць, спакушáць да інтымнае блíзкасьці. 3. ашýкваць; падмáнваць

**seducer** [sɪˈdu:sər] n. спакýсьнік -а *m.*

**seduction** [sɪˈdʌkʃən] n. 1. спакушэ́ньне *n.* 2. спакýса *f.*

**seductive** [sɪˈdʌktɪv] n. 1. прынáдны; спакýсьлівы, спакушáльны. 2. чарóўны; захапляльны, панáдны

**see I** [si:] v.t. **saw, seen, seeing** 1. бáчыць; глядзéць. 2. разумéць: ***I see what you mean*** Я разумéю, што вы хóчаце сказáць; ***as far as I can see*** накóлькі я разумéю. 3. уважáць, глядзéць: ***See that you lock the back door*** Глядзí тóлькі, каб замкнýў зáднія дзьвéры. 4. адвéдваць *кагó*, навéдваць *штó*: ***He went to see a friend*** Ён пайшóў адвéдаць сябра; ***We saw the exhibition*** Мы навéдалі выстáву

• ***see after*** глядзéць *чагó*, наглядáць, сачы́ць за *чым*: ***to see after the luggage*** наглядáць за багажóм

• ***see into*** унікáць у *што*, разглядáць *што*

• ***see off*** правéсьці *кагó* (*хто ад'яжджáе*)

• ***see out*** а) давéсьці да канцá, скóнчыць. б) дажы́ць да чагó

• ***see through*** а) бáчыць наскрóзь, разумéць навылёт. б) дапамагáць у бядзе

• ***see to*** даглéдзець, упэ́ўніцца: ***I'll see to it*** Я гэ́та даглéджу

• ***The blind do not see*** Сьляпы́я ня бáчаць

**see II** [si:] n. 1. пасáда, улáда бíскупа. 2. бíскупства *n.*

**seed** [si:d] – n., pl. **seeds**, coll. **seed** 1. насéньне, зéрне *n., pl.* зярня́ты; зéрнетка, зярня́тка *n., dim.* 2. насéнныя клýбні расьлíнаў, сéянка (*бýльбы*). 3. крынíца, пачáтак: ***seeds of trouble*** крынíца клóпатаў. 4. Bibl. дзéці, нашчáдкі *pl.* 5. спэ́рма *f.*, насéньне *n.*
– adj. насéнны
– v.t. 1. сéяць, засявáць. 2. абнасéньвацца. 3. выбірáць зярня́ты

• ***go to seed*** а) абнасéньвацца, давáць насéньне. б) падупадáць (*сíлай, багáцьцем*)

• ***seed clouds*** штýчна выклікáць дождж

**seedbed** [ˈsi:dbed] n. парнíк -á *m.*

**seeder** [ˈsi:dər] n. 1. ся|вéц- ўцá, сéйбіт -а *m.* 2. сéялка *f.* 3. прылáда для вымáньня зярня́т

**seedless** [ˈsi:dləs] adj. безь зярня́т (*напр. вінагрáд*)

**seedling** [ˈsi:dlɪŋ] n. 1. сéян|ец -ца *m.* 2. расáда *f.*, сáджан|ец -ца *m.*, флянс -а *m.*; малы́я дрэ́ўцы

**seek** [si:k] – v.t. **sought, seeking** 1. шукáць: ***to seek something lost*** шукáць згýбленае. 2. шукáць, спадзявáцца: ***Friends sought his advice*** Сябры́ шукáлі ў ягó парáды. 3. старáцца, імкнýцца: ***to seek fame*** імкнýцца да слáвы
– v.i. шукáць: ***Seek and ye shall find*** Bibl. Шукáйце і знóйдзеце

• ***be sought after*** быць пажадáным, мець вялíкі пóпыт

• ***seek to right a wrong*** старáцца вы́правіць зло

**seeker** [ˈsi:kər] n. шукáльнік -а *m.*, шукáльніца *f.*

**seem** [si:m] v.i. 1. здава́цца, выгляда́ць: ***He seemed a very old man*** Ён выгляда́ў ве́льмі стары́м чалаве́кам. 2. ***I still seem to hear the music*** Мне яшчэ́ здае́цца, што чу́ю му́зыку; ***It seems likely to rain*** Выглядае, што бу́дзе дождж

**seeming** [ˈsi:mɪŋ] – adj. уя́ўны, які́ здае́цца: ***a seeming advantage*** уя́ўная перава́га
– n. вы́гляд -у *m.*: ***It was worse in its seeming than in reality*** На вы́гляд, гэ́та выдава́лася го́ршым, чы́мся было́ ў рэчаі́снасьці

**seemingly** [ˈsi:mɪŋli] adv. віда́ць, як віда́ць, ма́быць, му́сіць: ***This hill is seemingly the highest*** Гэ́ты ўзго́рак, ма́быць, найвышэ́йшы

**seemly** [ˈsi:mli] – adj. адпаве́дны; прысто́йны.
– adv. адпаве́дна; прысто́йна

**seen** [si:n] v., *p.p. of* **see I**

**seep** [si:p] v.i. сачы́цца; прасо́чвацца; ка́паць; цячы́: ***Water seeps through sand*** Вада́ прасо́чваецца праз пясо́к

**seepage** [ˈsi:pɪdʒ] n. 1. працяка́ньне, выцяка́ньне, прасо́чваньне *n.*, фільтра́цыя *f.* 2. ві́льгаць *f.*, ва́дкасьць, яка́я прасо́чваецца

**seethe** [ˈsi:ð] – v.i. 1. бурлі́ць, пе́ніцца: ***Water seethed under the falls*** Вада́ бурлі́ла й пе́нілася пад вадаспа́дамі. 2. Figur. хваля́вацца, непако́іцца. 3. мо́кнуць
– v.t. мачы́ць; вымо́чваць

**segment** [ˈsegmənt] – n. 1. ча́стка *f.*, адрэ́зак -ка *m.*: ***segment of an orange*** до́лька ара́нжыка. 2. Geom. а) сэгмэ́нт кру́га. б) адці́нак, адрэ́зак -ка *m.* (*лі́ніі*). 3. Biol. чле́нік -а *m.*; сэгмэ́нт -а *m.*; сэгмэ́нт пазванка́
– v.t. дзялі́ць на чле́нікі, сэгмэ́нты

**segmental** [səgˈmentəl] adj. чле́ністы; суста́ўчаты

**segregate** [ˈsegrɪgeɪt] – v.t. 1. аддзяля́ць (*ад і́ншых*). 2. сэгрэгава́ць, ізалява́ць адну́ ра́су ад друго́й
– adj. [ˈsegrɪgət] адасо́блены, ізалява́ны ад і́ншых, сэгрэгацы́йны

**segregation** [ˌsegrɪˈgeɪʃən] n. 1. адасо́бленьне, ізаля́цыя ад і́ншых. 2. ра́савая сэгрэга́цыя

**seismic** [ˈsaɪzmɪk] adj. 1. сэйсьмі́чны. 2. спрычы́нены землятру́сам

**seize** [si:z] v. 1. хапа́цца, хапа́ць; чапля́цца: ***In fright she seized his arm*** Ад стра́ху яна́ ўхапі́лася за ягоную руку́. 2. зразуме́ць, ухапі́ць: ***to seize an idea*** зразуме́ць ду́мку. 3. сі́лай захапля́ць, займа́ць (*тэрыто́рыю*), бра́ць (*го́рад*). 4. ***A fever seized him*** Яго́ схапі́ла гара́чка. 5. канфіскава́ць
• ***seize on, upon*** а) схапі́ць *што*. б) завало́даць *чым*

**seizure** [ˈsi:ʒər] n. 1. захо́п -у *m.*, канфіска́цыя *f.*; налажэ́ньне а́рышту (*на маёмасьць*). 2. прыпа́дак хваро́бы (*напр. сардэ́чны прыпа́дак, апаплексі́чны ўда́р*)

**seldom** [ˈseldəm] adv. рэ́дка, ма́ла калі́

**select** [səˈlekt] – v.t. выбіра́ць: ***Select the book you want*** Вы́беры сабе́ кні́гу, яку́ю хо́чаш
– adj. 1. адбо́рны, выда́тны. 2. першара́дны, найле́пшы. 3. вы́браны: ***a very select club*** клюб для стро́га абра́ных

**selection** [səˈlekʃən] n. 1. выбіра́ньне *n.*, вы́бар, падбо́р -у *m.*: ***a good selection of hats*** вялі́кі вы́бар капелюшо́ў. 2. Biol. ***natural selection*** натура́льны адбо́р

**selective** [səˈlektɪv] adj. 1. адбо́рны; здо́льны рабі́ць адбо́р, сэлекты́ўны. 2. сэлекцы́йны

**self** [self] – n., pl. **selves** 1. сам: ***to be his real self*** быць самі́м сабо́ю; ***A selfish person puts self first*** Эгаі́ст ста́віць сябе́ на пе́ршае ме́сца
– pron. сам: ***a cheque made payable to self*** чэк вы́пісаны на сябе́

**self-** prefix са́ма-: ***self-control*** самавало́даньне, самаапанава́ньне, стры́манасьць, вы́трыманасьць

**self-acting** [ˌselfˈæktɪŋ] adj. самадзе́йны, аўтаматы́чны: ***a self-acting machine*** аўтаматы́чная машы́на

**self-addressed** [ˌselfəˈdrest] adj. адрасаваны сабе: ***a self-addressed envelope*** канвэрт, адрасаваны на сябе

**self-assertion** [ˌselfəˈsɜ:rʃən] n. самасьцьвярджэньне *n.*

**self-assurance** [ˌselfəˈʃʊrəns] n., *гл.* **self-confidence**

**self-awareness** [ˌselfəˈwernəs] n. самасьвядомасьць *f.*

**self-centered** [ˌselfˈsentərd] adj. 1. эгацэнтрычны. 2. эгаістычны

**self-cleaning** [ˌselfˈkli:nɪŋ] adj. самаачышчальны

**self-complacency** [ˌselfkəmˈpleɪsənsi] n. самазадаволенасьць *f.*

**self-conceit** [ˌselfkənˈsi:t] n. зазнайства *n.*

**self-confidence** [ˌselfˈkɑ:nfɪdəns] n. самапэўнасьць, самаўпэўненасьць *f.*

**self-confident** [ˌselfˈkɑ:nfɪdənt] adj. самапэўны, самаўпэўнены

**self-conscious** [ˌselfˈkɑ:nʃəs] n. сарамлівы, зьбянтэжаны

**self-contained** [ˌselfkənˈteɪnd] adj. 1. замкнуты ў сабе. 2. самадастатковы

**self-contradictory** [ˌselfˌkɑ:ntrəˈdɪktəri] adj. які супярэчыць самому сабе.

**self-control** [ˌselfkənˈtroʊl] n. самакантроль -ю *m.*, самавалоданьне, самапанаваньне *n.*; стрыманасьць, вытрыманасьць *f.*

**self-criticism** [ˌselfˈkrɪtɪsɪzəm] n. самакрытыка *f.*, самакрытыцызм -у *m.*

**self-deception** [ˌselfdɪˈsepʃən] n. самаашуканства *n.*, самападман -у *m.*

**self-defense** [ˌselfdɪˈfens] n. самаабарона *f.*

**self-denial** [ˌselfdɪˈnaɪəl] n. самаадрачэньне *n.*, адмаўленьне ад асабістых выгадаў

**self-denying** [ˌselfdɪˈnaɪɪŋ] adj. неэгаістычны, які самаадракаецца, адмаўляе сабе

**self-determination** [ˌselfdɪˌtɜ:rmɪˈneɪʃən] n. самавызначэньне *n.*

**self-devotion** [ˌselfdɪˌvoʊʃən] n. самаадданасьць, самаахвярнасьць *f.*

**self-discipline** [ˌselfˈdɪsəplɪn] n. самадысцыпліна *f.*

**self-educated** [ˌselfˈedʒəkeɪtəd] adj. самаадукаваны, самавучаны

**self-esteem** [ˌselfɪˈsti:m] n. 1. самапавага *f.* 2. самазадаволенасьць *f.*

**self-evident** [ˌselfˈevɪdənt] adj. відавочны, яўны

**self-expression** [ˌselfɪksˈpreʃən] n. самавыяўленьне *n.*

**self-governing** [ˌselfˈgʌvərnɪŋ] adj. самаўрадавы, самакіравальны

**self-government** [ˌselfˈgʌvərnmənt] n. самаўрад -у *m.*

**self-induction** [ˌselfɪnˈdʌkʃən] n., Electr. самаіндукцыя *f.*

**self-indulgence** [ˌselfɪnˈdʌldʒəns] n. патураньне сваім слабасьцям і прыхамацям

**self-indulgent** [ˌselfɪnˈdʌldʒənt] adj. які патурае сваім слабасьцям і прыхамацям

**self-inflicted** [ˌselfɪnˈflɪktɪd] adj. нанесены самому сабе (*рана*)

**self-interest** [ˌselfˈɪntrest] n. асабістая выгада, карысьць; разьлік -у *m.*

**selfish** [ˈselfɪʃ] adj. сябелюбны, эгаістычны

**self-knowledge** [ˌselfˈnɑ:lɪdʒ] n. самапазнаньне *n.*

**self-love** [ˌselfˈlʌv] n. 1. самалюбства *n.*, эгаізм -у *m.* 2. зазнайства *n.*

**self-management** [ˌselfˈmænɪdʒmənt] n. самакіраваньне *n.*

**self-pity** [ˌselfˈpɪti] n. самарасчуленьне, самашкадаваньне *n.*

**self-pollination**[ˌselfˌpɑ:ləˈneɪʃən] n. самаапыленьне, самаапладненьне *n.*

**self-portrait** [ˌselfˈpɔ:rtrət] n. аўтапартрэт -а *m.*

**self-possessed** [ˌselfpəˈzest] adj. вытрыманы, паўстрымлівы, які валодае сабою

**self-possession** [ˌselfpəˈzeʃən] n. вытрыманасьць *f.*, самапанаваньне, самавалоданьне *n.*

**self-preservation** [ˌselfˌprezərˈveɪʃən] n. самазахаваньне *n.*

**self-recording** [ˌselfrɪˈkɔ:rdɪŋ] adj. які аўтаматычна запісвае

**self-reliance** [ˌselfrɪˈlaɪəns] n. саманадзе́йнасьць, самапэ́ўнасьць *f.*
**self-reliant** [ˌselfrɪˈlaɪənt] adj. самапэ́ўны, упэ́ўнены ў сваé сíлы
**self-reproach** [ˌselfrɪˈproʊtʃ] n. самаасуджэ́ньне, самабíчава́ньне *n.*
**self-respect** [ˌselfrɪˈspekt] n. паша́на да само́га сябе́
**self-restraint** [ˌselfrɪˈstreɪnt] n. стры́манасьць *f.*
**self-righteous** [ˌselfˈraɪtʃəs] adj. самазадаво́лены, самаўпэ́ўнены; фарысе́йскі
**self-sacrifice** [ˌselfˈsækrɪfaɪs] n. самаахвя́рнасьць; ахвя́рнасьць, самааддáнасьць *f.*
**self-same** [ˈselfseɪm] adj. той са́мы
**self-satisfaction** [ˌselfˌsætɪsˈfækʃən] n. самазадаво́ленасьць *f.*
**self-satisfied** [ˌselfˈsætɪsfaɪd] adj. самазадаво́лены
**self-seeker** [ˌselfˈsi:kər] n. своекары́сьлівы чалаве́к, кар’еры́ст -а *m.*
**self-seeking** [ˌselfˈsi:kɪŋ] – adj. своекары́сьлівы
– n. своекары́сьлівасьць *f.*, кар’еры́зм -у *m.*
**self-service** [ˌselfˈsɜ:rvɪs] n. самаабслуго́ўваньне *n.*, самаабслу́га *f.*
**self-starter** [ˌselfˈstɑ:rtər] n. самапу́ск -а *m.*, аўтаматы́чны стартэ́р
**self-styled** [ˌselfˈstaɪld] adj. самазва́ны: ***a self-styled leader whom no one follows*** самазва́ны правады́р, яко́га ніхто́ не прызнае́
**self-sufficiency** [ˌselfsəˈfɪʃənsi] n. самадастатко́васьць *f.*, самазабесьпячэ́ньне *n.*
**self-sufficient** [ˌselfsəˈfɪʃənt] adj. 1. незале́жны (*эканамíчна*). 2. самазабясьпе́чаны, самадастако́вы
**self-support** [ˌselfsəˈpɔ:rt] n. самаўтрыма́ньне, самападтры́мка *f.*
**self-supporting** [ˌselfsəˈpɔ:rtɪŋ] *or* **self-sustaining** [ˌselfsəˈsteɪnɪŋ] adj. якí сам утрымо́ўвае сябе́
**self-will** [ˌselfˈwɪl] n. самаво́льства *n.*, упа́ртасьць *f.*
**self-willed** [ˌselfˈwɪld] adj. самаво́льны; упа́рты
**self-winding** [ˌselfˈwaɪndɪŋ] adj. якí аўтаматы́чна накру́чваецца, з аўтаматы́чным заво́дам
**sell** [sel] v.t. **sold, selling** 1. прадава́ць: ***to sell a house*** прада́ць дом. 2. гандлява́ць: ***A butcher sells meat*** Мясьнíк гандлю́е мя́сам. 3. прадава́ць, здра́джваць. 4. угаво́рваць, перако́нваць *каго́*; папулярызава́ць *што*: ***to sell the idea to the public*** пераканáць людзе́й у ідэ́і
• ***sell off*** распрада́ць
• ***sell on*** а) намо́віць да *чаго́*. б) перакана́ць у *чым*
• ***sell out*** а) распрадава́ць; перапрадава́ць (*а́кцыі*). б) вы́даць (*чалаве́ка во́рагу*)
**seller** [ˈselər] n. прада|ве́ц -ўца́ *m.*
• ***best seller*** хо́дкі тава́р, хо́дкая кні́га, бэстсэ́лер -а *m.*
**sellout** [ˈselaʊt] n. 1. здра́да *f.* 2. распро́даж -у *m.*
**selvage** *or* **selvedge** [ˈselvɪdʒ] n. пруг пру́га *m.* (*у ткані́не*)
**selves** [selvz] n., *pl. of* **self** самí: ***He had two selves — a good self and a bad self*** У ім было́ дзьве асо́бы — до́брая і блага́я
**semantic** [səˈmæntɪk] adj. 1. сэ́нсавы. 2. сэманты́чны
**semantics** [səˈmæntɪks] n. сэма́нтыка *f.*
**semaphore** [ˈseməfɔ:r] n. 1. сэмафо́р -а *m.* 2. сыстэ́ма сыгналіза́цыі
**semblance** [ˈsembləns] n. 1. вы́гляд -у *m.* 2. падабе́нства *n.*, падо́бнасьць *f.*
**semen** [ˈsi:mən] n., pl. **semina** спэ́рма *f.*, насе́ньне *n.*
**semester** [səˈmestər] n. сэмэ́ст|ар -ру *m.*, паўго́дзьдзе *n.* (*навуча́льнае*)
**semi-** pref. 1. паў-: ***semicircle*** паўко́ла, паўкру́г. 2. часткóва: ***semicivilized*** частко́ва цывілізава́ны. 3. двóйчы: ***semi-annually*** раз на паўго́да, двóйчы на год
**semi-annual** [ˌsemiˈænjʊəl] adj. паўгадо́вы
**semiannually** [ˌsemiˈænjʊəli] adv. раз на паўго́да, двóйчы на год

**semicircle** [ˈsemiˌsɜ:rkəl] n. паўко́ла *n.*, паўкру́г -а *m.*

**semicircular** [ˌsemiˈsɜ:rkjələr] adj. паўкру́глы

**semicolon** [ˈsemiˌkoʊlən] n. кро́пка з ко́скай, кро́пка-ко́ска

**semiconscious** [ˌsemiˈkɑ:nʃəs] adj. напаўпрыто́мны, ама́ль непрыто́мны

**semiconsciously** [ˌsemiˈkɑ:nʃəsli] adv. напаўпрыто́мна

**semidaily** [ˌsemiˈdeɪli] adv. дво́йчы на дзень

**semidetached** [ˌsemidɪˈtætʃt] adj. напаўзлу́чаны: ***semidetached house*** адзі́н з двух дамо́ў, якія ма́юць супо́льную сьцяну́

**semifinal** [ˌsemiˈfaɪnəl] n., Sport. паўфіна́л -у *m.*

**semifluid** [ˌsemiˈflu:ɪd] adj. *or* **semiliquid** [ˌsemiˈlɪkwɪd] ве́льмі густы́, вя́зкі, цягу́чы

**semilunar** [ˌsemiˈlu:nər] adj. у фо́рме паўме́сяца

**semimonthly** [ˌsemiˈmʌnθli] – adj. паўме́сячны
– adv. паўме́сячна, дво́йчы ў ме́сяц
– n., pl. **-lies** паўме́сячнік (*ча́сапіс, бюлетэ́нь*)

**seminar** [ˈsemɪnɑ:r] n. сэміна́р -у *m.*

**seminary** [ˈsemәneri] n., pl. **-naries** 1. духо́ўная сэміна́рыя. 2. вышэ́йшая шко́ла зь інтэрна́там (*для дзяўча́т*)

**semiprecious** [ˌsemɪˈpreʃəs] adj. по́ўкаштo̒ўны: ***semiprecious gem*** по́ўкашто́ўны ка́мень

**semiquaver** [ˈsemɪˌkweɪvər] n., Mus. шасна́ццатая (*но́та*)

**Semite** [ˈsemaɪt] n. сэмі́т -а *m.*

**Semitic** [səˈmɪtɪk] adj. сэмі́цкі

**semivowel** [ˈsemiˌvaʊəl] n. паўгало́сн|ы -ага *m.*

**semiweekly** [ˌsemiˈwi:kli] – adj. паўтыднёвы
– adv. двойчы на ты́дзень
– n. паўтыднёвік -а *m.* (*ча́сапіс, газэ́та*)

**semiyearly** [ˌsemiˈji:rli] – adj. паўгадавы́
– adv. двойчы на год

**semolina** [ˌseməˈli:nə] n. ма́нныя кру́пы

**senate** [ˈsenət] n. сэна́т -у *m.*

**senator** [ˈsenətər] n. сэна́тар -а *m.*, сэна́тарка *f.*

**senatorial** [ˌsenəˈtɔ:riəl] adj. сэна́тарскі

**send** [send] – v.t. **sent, sending** 1. пасыла́ць, адсыла́ць. 2. выпраўля́ць: ***to send a boy to college*** вы́правіць хлапца́ ў кале́дж. 3. адсыла́ць: ***to send a reader to the dictionary*** адсыла́ць, адасла́ць чытача́ да сло́ўніка. 4. насыла́ць, нано́сіць: ***to send destruction*** нане́сьці разбурэ́ньні. 5. выпуска́ць: ***The volcano sent clouds of smoke*** Вулька́н выкіда́ў клубы́ ды́му. 6. перадава́ць (*сыгна́лы*)
– v.i. пасыла́ць: ***send for a doctor*** пасла́ць па ле́кара, вы́клікаць ле́кара

**sender** [ˈsendər] n. 1. адпра́ўшчык -а, адпраўні́к -а́ *m.* (*ліста́, тава́ру*). 2. тэлегра́фны апара́т

**send-off** [ˈsendɔ:f] n. про́вады *pl. only*, разьвіта́льны ве́чар *або́* бясе́да

**senile** [ˈsi:naɪl] – adj. 1. стары́, старэ́чы, састарэ́лы. 2. кво́лы, хі́лы (*ад ста́расьці*). 3. Geol. вы́ветраны: ***a senile rock*** вы́ветраная скала́
– n. састарэ́л|ы -ага *m.*, састарэ́лая *f.*

**senility** [səˈnɪləti] n. 1. ста́расьць *f.* 2. старэ́чая фізы́чная *або́* разумо́вая кво́ласьць, ляда́шчасьць *f.*; старэ́чая зьдзецінéласьць

**senior** [ˈsi:njər] – adj. 1. старэ́йшы: ***John Parker senior*** Джон Паркер-старэ́йшы. 2. старэ́йшы паво́дле стано́вішча *або́* вы́слугі гадо́ў: ***the senior class*** старэ́йшая кля́са
– n. 1. старэ́йшая асо́ба. 2. ста́ршы ра́нгам *або́* вы́слугай гадо́ў. 3. выпускні́к -а́ *m.*, выпускні́ца *f.*

**senior citizen** грамадзяні́н у стары́м ве́ку, пэнсіянэ́р -а *m.*, пэнсіянэ́рка *f.*

**senior high school** вышэ́йшыя кля́сы сярэ́дняе шко́лы (*10, 11 і 12*)

**seniority** [si:nˈjɔ:rəti] n., pl.**-ties** 1. старшынство́ *n.* 2. працо́ўны стаж

**sensation** [senˈseɪʃən] n. 1. адчува́ньне *n.* 2. пачуцьцё *n.*, ура́жаньне *n.* 3. сэнса́цыя *f.*

**sensational** [sen'seıʃənəl] adj. сэнсацыйны

**sense** [sens] – n. 1. пачуцьцё *n.*: ***Sight, hearing, touch, taste, and smell are the five senses*** Зрок, слых, до́тык, смак і нюх — пяць пачу́цьцяў. 2. пачуцьцё *n.*: ***a sense of security /of duty*** пачуцьцё бясьпе́кі/абавя́зку. 3. вычуцьцё *n.*: ***sense of humor*** пачуцьцё гу́мару. 4. разва́жнасьць, інтэліге́нтнасьць *f.*: ***common*** or ***good sense*** здаро́вы ро́зум, глузд. 5. адчува́ньне *n.*: ***a sense of beauty*** адчува́ньне хараства́; ***a sense of direction*** вычуцьцё кіру́нку. 6. знача́ньне *n.*, сэнс -у *m.*: ***He was a gentleman in every sense of the word*** Ён быў джэнтэльмэ́нам у по́ўным сэ́нсе гэ́тага сло́ва. 7. толк -у *m.*: ***to speak or write sense*** гавары́ць або́ піса́ць разу́мна. 8. агу́льная ду́мка: ***the sense of the assembly*** агу́льная ду́мка схо́ду

– v. 1. адчува́ць, пачува́ць: ***She sensed that he was tired*** Яна́ адчува́ла, што ён быў сто́млены. 2. разуме́ць

• ***in a sense*** у пэ́ўным сэ́нсе, да пэ́ўнай ступе́ні

• ***make sense*** быць зразуме́лым, мець сэнс

• ***senses*** ро́зум -у *m.*; сьвядо́масьць *f.*: ***in one's senses*** пры сваі́м ро́зуме (*у нарма́льным псыхі́чным ста́не*); ***to come to one's senses*** а) прыйсьці́ да сябе́, апамята́цца, апрыто́мнець. б) узя́цца за ро́зум

**senseless** ['sensləs] adj. 1. непрыто́мны. 2. дурны́, неразу́мны. 3. бессэнсо́ўны: ***senseless words*** бессэнсо́ўныя сло́вы. 4. бязмэ́тны, недарэ́чны

**senselessly** ['sensləsli] adv. бяз сэ́нсу, бесталко́ва

**sense organ** о́рган пачу́цьця (*во́ка, ву́ха, нос і г.д.*)

**sensibility** [ˌsensə'bıləti] n., pl. **-ties** 1. ура́жлівасьць *f.* 2. чульлівасьць *f.* 3. ура́жлівасьць, схі́льнасьць ху́тка абража́цца. 4. то́нкае адчува́ньне: ***sensibility for colors*** до́брае разро́зьніваньне ко́лераў

**sensible** ['sensəbəl] adj. 1. разва́жны, разу́мны. 2. адчува́льны; відаво́чны; зна́чны: ***a sensible difference in temperature*** адчува́льная ро́зьніца тэмпэрату́ры; ***a sensible reduction in expenses*** зна́чнае зьме́ншаньне выда́ткаў. 3. ура́жлівы, чу́лы. 4. практы́чны

**sensibly** ['sensəbli] adv. 1. разва́жна, разу́мна. 2. адчува́льна, зна́чна

**sensitive** ['sensətıv] adj. 1.ура́жлівы, ве́льмі чу́лы: ***The eye is sensitive to light*** Во́ка ўра́жлівае на сьвятло; ***a sensitive ear*** чу́йнае ву́ха; ***a sensitive eye*** то́нкі зрок. 2. чу́лы, чульлі́вы; крыўдлі́вы: ***sensitive point(s)*** слабо́е ме́сца, слаба́я стру́нка. 4. адчува́льны, даліка́тны: ***a sensitive skin*** даліка́тная ску́ра

**sensitivity** [ˌsensə'tıvəti] n., pl. **-ties** ура́жлівасьць *f.*; чу́ласьць, чульлі́васьць *f.*

**sensual** ['senʃʊəl] adj. 1. пачуцьцёвы: ***sensual pleasures*** пачуцьцёвыя асало́ды. 2. палавы́ (*напр. цяга*); юрлі́вы (*пра асо́бу*)

**sensualist** ['senʃʊəlıst] n. сэнсуалі́ст -а *m.*, сэнсуалі́стка *f.*: ***Gluttons and drunkards are sensualists*** Абжо́ры й п'я́ніцы — сэнсуалі́сты

**sensuality** [ˌsenʃʊ'æləti] n., pl. **-ties** пачуцьцёвасьць, юрлі́васьць *f.*, юр -у *m.*

**sensuous**['senʃʊəs] adj. пачуцьцёвы

**sent** [sent] v., *p.t. and p.p. of* **send**

**sentence** ['sentəns] – n. 1. сказ -у *m.* 2. пастано́ва *f.* 3. а) прысу́д -у *m.* б) прысу́джанае пакара́ньне або́ ка́ра *f.*: ***to serve one's sentence*** адбыва́ць пакара́ньне; ***life sentence*** пажыцьцёвае зьняво́леньне. 4. пры́маўка, пры́казка, сэнтэ́нцыя *f.*; выслоўе *n.*

– v.t. засудзі́ць: ***The judge sentenced the thief to five years in prison*** Судзьдзя́ засудзі́ў зло́дзея на пяць гадо́ў турмы́

**sentience** ['senʃəns] n. здо́льнасьць адчува́ць, чуцьцё, адчува́ньне *n.*: ***Some people believe in the sentience of***

***flowers*** Некато́рыя лю́дзі ве́раць у здо́льнасьць адчува́ньня ў кве́так
**sentiment** [ˈsentəmənt] n. пачуцьцё *n.* 2. чульлі́васьць, сэнтымэнта́льнасьць *f.* 3. по́гляд -у *m.*, ду́мка *f.*; асабі́стае меркава́ньне
**sentimental** [ˌsentəˈmentəl] adj. чульлі́вы, чу́лы, сэнтымэнта́льны
**sentimentalism** [ˌsentəˈmentəlɪzəm] n. сэнтымэнталі́зм -у *m.*
**sentimentality** [ˌsentəmenˈtæləti] n., pl. **-ties** сэнтымэнта́льнасьць *f.*, залі́шняя, празьме́рная чу́льлівасьць
**sentinel** [ˈsentɪnəl] – n. 1. вартаўні́к -а́ *m.* 2. ва́рта *f.*: ***to stand sentinel*** стая́ць на ва́рце
– v.t. **-nelled** or **-neled, nelling** 1. вартава́ць. 2. ста́віць ва́рту
**sentry** [ˈsentri] n., pl. **-tries** 1. вартаўні́к -а́ *m.* 2. вайско́вая ва́рта
**sentry box** вартаўні́чая бу́дка
**sepal** [ˈsepəl] n., Bot. падвяно́чкавы ліс-то́к
**separable** [ˈsepərəbəl] adj. які́ мо́жна аддзялі́ць; падзе́льны
**separate** [ˈsepəreit] – v.t. 1. аддзяля́ць: а) ***The Atlantic Ocean separates North America from Europe*** Атлянты́чны акія́н аддзяля́е Паўно́чную Амэ́рыку ад Эўро́пы. б) ***to separate church and state*** адддзялі́ць царкву́ ад дзяржа́вы. 2. адбіра́ць, аддзяля́ць: ***Separate your books from mine*** Аддзялі́ свае́ кні́гі ад маі́х
– v.i. 1. разыхо́дзіцца (*у ро́зныя бакі́*). 2. разыхо́дзіцца, разлуча́цца (*пра му́жа з жо́нкай*). 3. адлуча́цца: ***to separate from a group*** адлучы́цца ад гру́пы
– adj. [ˈsepərət] асо́бны, паасо́бны: ***These are two separate questions*** Гэ́та два асо́бныя пыта́ньні
**separated** [ˈsepəreitɪd] adj. 1. разьдзе́лены; адлу́чаны, аддзе́лены. 2. які́ не жыве́ ра́зам (*пра му́жа ці жо́нку*)
**separately** [ˈsepərətli] adv. 1. паасо́бку. 2. асо́бна, разлучы́ўшыся
**separation** [ˌsepəˈreiʃən] n. 1. аддзяле́ньне, разьдзяле́ньне; разлучэ́ньне *n.* 2. сэпара́цыя *f.* (*у жані́мстве*). 3. паліты́чнае аддзяле́ньне, адасабле́ньне *n.* (*ад дзяржа́вы*), сэпара́цыя *f.*
**separatism** [ˈsepərəˌtɪzəm] n. сэпараты́зм -у *m.*
**separator** [ˈsepəreɪtər] n. сэпара́тар -а *m.*, мало́чны сэпара́тар; ве́ялка *f.*; трые́р -а *m.*
**September** [sepˈtembər] n. ве́ра|сень -сьня *m.*
**septennial** [sepˈteniəl] adj. сямігадо́вы, які́ здара́ецца ко́жныя сем гадо́ў
**septic** [ˈseptɪk] adj. сэпты́чны
**septic tank** сэ́птык -а *m.*
**sequel** [ˈsi:kwəl] n. 1. праця́г -у *m.*, прадаўжэ́ньне *n.* 2. вы́нік -у *m.*
**sequence** [ˈsi:kwəns] n. 1. пасьлядо́ўнасьць *f.*; чарго́васьць *f.*; пара́д|ак -ку *m.*: а) ***alphabetical sequence*** альфабэ́тны пара́дак. б) ***sequence of tenses*** пасьлядо́ўнасьць часо́ў. 2. сэ́рыя *f.*: ***a sequence of lessons on one subject*** сэ́рыя ле́кцыяў на тэ́му аднаго́ прадме́та. 3. вы́нік -у *m.* 4. ка́д|ар -ру *m.*: ***sequence of a motion picture*** ка́дар фі́льму, эпізо́д -у *m.*
**sequent** [ˈsi:kwənt] – adj. 1. насту́пны, чарго́вы. 2. пара́дкавы (*напр. ну́мар*); пасьлядо́ўны. 3. які́ выніка́е з *чаго́,* які́ зьяўля́ецца вы́нікам *чаго́*
– n. вы́нік -у *m.*
**sequester** [sɪˈkwestər] v.t. 1. ізалява́ць, адасабля́ць, аддзяля́ць. 2. сэквэстрава́ць
**sequin** [ˈsi:kwɪn] n. блі́скаўка (*для упрыго́жваньня адзе́ньня*)
**Serbian** [ˈsɜ:rbiən] – adj. сэ́рбскі
– n. 1. сэрб -а *m.*, сэ́рбка *f.* 2. сэ́рбская мо́ва
**Serbo-Croatian** [ˌsɜ:rbəkroʊˈeɪʃən] adj. сэ́рбска-харва́цкі
**sere** [sɪr] adj. вы́ветраны, вы́сушаны; зьвя́лы
**serenade** [ˌserəˈneɪd] – n. 1. сэрэна́да *f.* 2. лíры́чны музы́чны твор
– v.t. пяя́ць сэрэна́ду
**serene** [səˈri:n] adj. 1. спако́йны, ці́хі, ціхамі́рны: ***a serene smile*** спако́йная

ўсьме́шка. 2. сьве́тлы; я́сны, бясхма́рны: ***a serene sky*** я́снае, бясхма́рнае не́ба

**serenity** [səˈrenəti] n., pl. **-ties** 1. супако́|й -ю *m.*, ціхамі́рнасьць *f.* 2. я́снасьць, бясхма́рнасьць *f.*

**serf** [sɜ:rf] n. прыго́нн|ы -ага *m.*, прыго́нная *f.*

**serfdom** [ˈsɜ:rfdəm] n. прыго́н -у *m.*, прыго́ннае пра́ва

**sergeant** [ˈsɑ:rdʒənt] n. сяржа́нт -а *m.*

**serial** [ˈsɪriəl] – n. 1. сэры́йная публіка́цыя; пэрыяды́чнае выда́ньне. 2. фільм, пака́званы ча́сткамі
– adj. сэры́йны

**serialize** or **serialise,** esp. Br. [ˈsɪriəlaɪz] v.t. 1. выдава́ць ча́сткамі. 2. дзялі́ць на ча́сткі

**serial number** пара́дкавы ну́мар

**sericulture** [ˈserəˌkʌltʃər] n. гадо́ўля шаўкапра́даў

**series** [ˈsɪri:z] n., pl. **-ries** 1. шэ́раг -у *m.*: ***a series of rooms opened off the long hall*** шэ́раг пако́яў з увахо́дам з до́ўгага каліда́ру. 2. сэ́рыя *f.*, пасьлядо́ўны шэ́раг: а) ***series of experiments*** сэ́рыя до́сьледаў; ***series of rainy days*** шэ́раг дажджлі́вых дзён. б) сэ́рыя (*тво́раў*) 3. Electr. пасьлядо́ўнае спалучэ́ньне

**serif** [ˈserɪf] n. засе́чка *f.* (*у лі́тары*), спалуча́льная ры́сачка

**serious** [ˈsɪriəs] adj. 1. сур’ёзны, пава́жны: ***a serious face*** пава́жны твар. 2. вялі́кі, сур’ёзны: ***serious mishap*** вялі́кая непрые́мнасьць. 3. ва́жны: ***a serious matter*** ва́жная спра́ва. 4. небясьпе́чны: ***a serious condition*** небясьпе́чны стан (*у хво́рага*)

**seriously** [ˈsɪriəsli] adv. пава́жна

**seriousness** [ˈsɪriəsnəs] n. пава́жнасьць *f.*

**sermon** [ˈsɜ:rmən] n. 1. ка́зань, про́паведзь, наву́ка *f.* (*рэлігі́йная*): ***to preach a sermon*** прамаўля́ць ка́зань. 2. павуча́ньне, настаўле́ньне *n.*: ***After the guests left, the boy got a sermon on table manners*** Калі го́сьці пайшлі́, хлапе́ц вы́слухаў павучэ́ньне, як трыма́цца за стало́м

**serpent** [ˈsɜ:rpənt] n. вуж -а́ *m.*, вужа́ка, зьмяя́ *f.*

**serpentine** [ˈsɜ:rpənti:n] – adj. 1. вужа́чы, як вужа́ка. 2. зьвілі́сты, пакруча́сты: ***the serpentine course of a creek*** зьвілі́стая плынь руча́я. 3. хі́тры, няшчы́ры, здра́дніцкі, верало́мны: ***a serpentine suggestion*** няшчы́рая пара́да
– n. 1. сэрпанты́н -у *m.*, зьвілі́стая го́рная даро́га. 2. сэрпэнты́н -у *m.* (*мінэра́л*)

**serrate** [səˈreɪt] – adj. 1. зубча́ты, зубча́сты; вы́зублены: ***a serrate leaf*** зубча́ты ліст (*расьлі́ны*)
– v.t. 1. нараза́ць зубцы́, назу́бліваць. 2. вышчарбля́ць, вызу́бліваць

**serrated** [səˈreɪtɪd] adj. *гл.* **serrate**, adj.

**serum** [sɪˈrəm] n., pl. **serums** or **sera** [sɪˈrə] 1. Med. сы́варатка *f.* 2. сыро́ватка *f.* (*мало́чная*)

**servant** [ˈsɜ:rvənt] n. 1. слуг|а́ -і́ *m.* , служа́нка *f.*; **servants,** coll. чэ́лядзь *f.*; ***servants’ quarters*** чаля́дня *f.* 2. службо́|вец -ўца *m.*, службо́ўка *f.*: ***civil servant*** дзяржа́ўны службо́вец, урадо́|вец -ўца *m.*, урадо́ўка *f.*; ***public servant*** службо́вая асо́ба
• ***servants of God*** слу́гі бо́жыя (*пра духаве́нства*)

**servant maid** служа́нка, пакаёўка *f.*

**serve** [sɜ:rv] v. 1. служы́ць: ***to serve in the army*** служы́ць у во́йску; ***He served as a butler*** Ён служы́ў дварэ́цкім. 2. абслуго́ўваць (*пакупніка́, кліе́нта ў рэстара́не*); падава́ць на стол. 3. дапамагчы, услужы́ць: ***Can I serve you in any way?*** Магу́ вам дапамагчы́ ў чым-ко́лечы? 4. служы́ць, быць прыда́тным: ***Boxes served as seats*** Скры́нкі служы́лі як сядзе́ньні
• ***It serves him right!*** Так яму́ й трэ́ба!
• ***serve a term in prison*** адсе́дзець тэ́рмін у астро́зе
• ***serve the ball*** падава́ць мя́ч (*у гульні́*)

**server** [ˈsɜ:rvər] n. 1. той, хто абслуго́ўвае. 2. міністра́нт -а *m.* (*у касьце́ле*).

3. а) паднóс -а *m.* б) лы́жка, відэ́лец для сэрвава́ньня: ***a cake server*** лапа́тка для то́рта

**service** [ˈsɜ:rvəs] – n. 1. слу́жба *f.*: ***to go into service*** паступа́ць на слу́жбу; ***to be in someone's service*** быць на слу́жбе ў каго́. 2. дапамо́га, паслу́га *f.*: ***the services of a doctor*** ле́карская дапамо́га. 3. вайско́вая слу́жба: ***active service*** абавязко́вая вайско́вая слу́жба. 4. прыбо́р -у *m.*: ***a tea service*** гарба́тны прыбо́р. 5. пада́ча (*у тэ́нісе*) – adj. службо́вы: ***service uniform*** службо́вая фо́рма

• ***at your service*** да ва́шых паслу́гаў

• ***be of service*** быць прыда́тным, кары́сным

• ***church service*** багаслу́жба

• ***of service*** дапамо́жны, кары́сны

• ***services*** абслуго́ўваньне *n.*

• ***the civil service*** дзяржа́ўная цыві́льная слу́жба, дзяржа́ўныя ўрадо́ўцы

• ***the service*** or ***the services*** а́рмія, авія́цыя, флёт

**serviceable** [ˈsɜ:rvəsəbəl] adj. 1. кары́сны, прыда́тны. 2. мо́цны (*пра матэрыя́л*)

**serviceman** [ˈsɜ:rvəsmən] n., pl. **-men** 1. вайско́|вец -ўца *m.* 2. мэха́нік, рамо́нтнік -а *m.*

**service road** даро́га для мясцо́вага ру́ху

**service station** 1. бэнзы́нная, запра́вачная ста́нцыя; бэнзазапра́ўка, бэнзакалёнка *f.* 2. рамо́нтная ста́нцыя

**servicewoman** [ˈsɜ:rvəsˌwʊmən] n. жанчы́на-вайско́вец

**serviette** [ˌsɜ:rviˈet] n. сурвэ́тка *f.*

**servile** [ˈsɜ:rvəl] adj. 1. нізкапакло́ньніцкі, ліслі́вы, падлі́зьлівы: ***servile flattery*** нізкапакло́ньніцкае падлі́званьне. 2. ра́бскі; няво́льнічы: ***servile work*** ра́бская пра́ца. 3. уго́дніцкі: ***servile to public opinion*** падаўкі́ грама́дзкай ду́мцы

**servility** [sɜ:rˈvɪləti] n., pl. **-ties** уго́дніцтва *n.*; сэрвілі́зм -у *m.*

**servitude** [ˈsɜ:rvətu:d] n. 1. ра́бства *n.*; няво́ля *f.* 2. ка́тарга *f.*

**session** [ˈseʃən] n. 1. сэ́сія *f.*, пасе́джаньне *n.*: ***Parliament is now in session*** Парлямэ́нт цяпе́р на сэ́сіі. 2. рад пасе́джаньняў. 3. пэры́яд пасе́джаньняў: ***This year's session of Parliament was unusually long*** Сёлета сэ́сія парлямэ́нту была́ незвыча́йна даўга́я. 4. сэ́сія *f.*, трымэ́ст|ар -ру *m.*: ***the summer session*** ле́тні трымэ́стар

• ***be in session*** мець пасе́джаньне, сэ́сію; засяда́ць

**set** [set] – v.t. **set, setting** 1. ста́віць: ***to set the value of*** ацані́ць *што*; ***to set a record*** паста́віць рэко́рд. 2. устаўля́ць, упраўля́ць: ***to set a broken bone*** упра́віць злама́ную косьць. 3. настаўля́ць, наво́дзіць: ***to set a clock*** наве́сьці гадзі́ньнік 4. вызнача́ць, прызнача́ць (*час для чаго́*). 5. упрыго́жваць, аздабля́ць: ***a bracelet set with diamonds*** бранзале́т аздо́блены дыямэ́нтамі. 6. садзі́ць квакту́ху (*на я́йкі*). 7. Mus. а) склада́ць, піса́ць мэлёдыю. б) аранжава́ць му́зыку. 8. Print. набіра́ць (*тэкст*)

– v.i. 1. застыва́ць, гусьце́ць: ***jelly sets as it cools*** кісе́ль застыва́е, калі́ ахало́джваецца. 2. захо́дзіць: ***The sun sets in the west*** Со́нца захо́дзіць на за́хадзе. 3. сядзе́ць на я́йках (*пра квакту́ху*). 4. пасава́ць, падыхо́дзіць: ***That coat sets well*** Гэ́нае палітó до́бра сядзі́ць (*пасу́е*)

– adj. 1. вы́значаны, усталява́ны, прыня́ты: ***set time*** вы́значаны час; ***set rules*** прыня́тыя пра́вілы. 2. засты́лы, цьвёрды. 3. нава́жаны: ***He is set on going today*** Ён нава́жаны е́хаць сёньня

– n. 1. камплéкт -у *m.*, по́ўны набо́р *m.*; прыбо́р -у *m.*: ***a set of dishes*** прыбо́р, камплéкт по́суду. 2. радыёапара́т, тэлевізар *або́* тэлефо́нны апара́т. 3. дэкара́цыя для п'е́сы *або́* адно́й дзе́і. 4. кіру́н|ак -ку *m.*; схіль-

насьць *f.* : ***the set of a current*** кіру́нак плы́ні. 5. за́вязь *f.*

• ***all set*** гато́вы, по́ўнасьцю прыгатава́ны

• ***set about*** прыступа́ць, бра́цца (*за рабо́ту*)

• ***set against*** настро́іць супро́ць; супрацьста́віць

• ***set a good example*** дава́ць до́бры пры́клад

• ***set apart*** адкла́сьці ў бок, вы́дзяліць

• ***set aside*** а) ня ўлі́чваць. б) запа́шваць на бу́дучыню

• ***set back*** затры́мваць, перашкаджа́ць

• ***set forth*** а) выпраўля́цца. б) выка́зваць: ***to set forth one's opinion*** выка́зваць сваю́ ду́мку

• ***set forward*** а) высо́ўвацца. б) выпраўля́цца (*у даро́гу*)

• ***set free/loose*** вызваля́ць: ***The slaves were set free*** Няво́льнікі былі́ вы́зваленыя

• ***set in*** а) пачына́цца: ***rain set in*** пачалі́ся дажджы́. б) ***the tide set in*** пача́ўся прыплы́ў

• ***set off*** а) выбуха́ць. б) падава́цца (*у даро́гу*)

• ***set on*** а) напада́ць. б) падгаво́рваць, нацко́ўваць

• ***set on fire*** запа́льваць, падпа́львать

• ***set out*** а) выруша́ць, падава́цца (*у даро́гу*). б) выстаўля́ць напака́з *або́* на про́даж. в) садзі́ць. г) плянава́ць, мані́цца, мець намéр (*рабі́ць*)

• ***set up*** а) будава́ць. б) пачына́ць, засно́ўваць, заклада́ць

• ***set up for*** падрабля́цца пад *каго́*

**setback** [ˈsetbæk] n. 1. адступле́ньне, затры́мка ў по́ступе; перашко́да, замі́нка *f.* 2. зьме́на на го́ршае, няўда́ча *f.*

**setting** [ˈsetɪŋ] n. 1. ра́мка *f.* (*карці́ны*); апра́ва (*ка́меня*). 2. дэкара́цыя (*спэкта́кля*). 3. ме́сца, час дзе́і (*п'е́сы або́ рама́на*). 4. асяро́дзьдзе *n.*

**settle** [ˈsetəl] – v.t. 1. усталёўваць, вызнача́ць (*да́ту, час*), дамаўля́цца: ***to settle on a time for leaving*** вы́значыць час вы́езду, дамо́віцца аб ча́се вы́езду. 2. залаго́джваць, зала́джваць: ***I must settle all my affairs before going away*** Я му́шу зала́дзіць усе́ свае́ спра́вы пе́рад вы́ездам. 3. апла́чваць: ***to settle a bill*** аплаці́ць раху́нак. 4. засяля́ць; калянізава́ць. 5. супако́йваць: ***A vacation will settle your nerves*** Адпачы́нак супако́іць твае́ нэ́рвы

– v.i. 1. сялі́цца; асяля́цца: ***to settle separately*** расьсяля́цца. 2. ула́джвацца, уладко́ўвацца: ***We are settled in our new home*** Мы ўладкава́ліся ў на́шым но́вым до́ме. 3. вы́гадна ўладко́ўвацца (*напр. у фатэ́лі*). 4. абсяда́ць: ***The end of that wall has settled five centimeters*** Кане́ц то́е сьцяны́ абсе́ў на пяць сантымэ́траў

• ***settle differences*** залаго́дзіць супярэ́чнасьці

• ***settle down*** а) усталява́цца. б) супако́іцца: ***At last the children settled down*** Нарэ́шце дзе́ці супако́іліся

• ***settle up*** аплаці́ць раху́нак, расплаці́цца

**settled** [ˈsetəld] adj. 1. асе́лы. 2. засе́лены: ***a densely settled region*** гу́ста засе́леная мясцо́васьць. 3. усталява́ны, вы́значаны (*пара́дак, да́та, цана́*)

**settlement** [ˈsetəlmənt] n. 1. урэгулява́ньне, пагадне́ньне, ула́джаньне *n.* (*спра́вы*). 2. вырашэ́ньне, вызначэ́ньне *n.* 3. апла́та *f.* (*до́ўгу*). 4. асяле́ньне *n.* 5. се́лішча *n.*, калёнія *f.* 6. асяда́ньне *n.* (*буды́ніны*)

**settler** [ˈsetələr] n. 1. пасяле́н|ец -ца *m.*, пасяле́нка *f.* 2. Law асо́ба, яка́я перадае́ ўла́снасьць

**settlings** [ˈsetəlɪŋz] n., pl. аса́д|ак -ку *m.*

**seven** [ˈsevən] n., adj. сем, coll. сямёра; сямёрка *f.*

**sevenfold** [ˈsevənfoʊld] – adv. у сем разо́ў

– adj. 1. сяміразо́вы. 2. зь сямі ча́стак

**seven hundred** n. сямсо́т, *indecl.*

**seven-hundredth** adj. семісо́ты

**seventeen** [ˌsevənˈtiːn] n. сямна́ццаць

**seventeenth** [ˌsevənˈti:ntθ] adj. сямнáццаты
**seventh** [ˈsevəntθ] adj. сёмы
**seventieth** [ˈsevəntiəθ] adj. сямідзясяты
**seventy** [ˈsevənti] n., pl. **-ties** сéмдзесят
**sever** [ˈsevər] – v.t. 1. разразáць, адразáць, адсякáць: ***to sever a rope*** разрэ́заць вярóўку. 2. парывáць (*сýвязі, дачынéньні*)
– v.i. аддзялáцца, падзялáцца: ***to sever into two factions*** падзялíцца на дзьве фрáкцыі
**several** [ˈsevrəl] adj. 1. кóлькі, нéкалькі: ***to gain several kilograms*** набрáць нéкалькі кілягрáмаў. 2. рóзны, асóбны; індывідуáльны: ***The boys went their several ways*** Хлапцы́ пайшлí рóзнымі дарóгамі
**severance** [ˈsevərəns] n. 1. аддзялéньне *n.*; падзéл -у *m.* 2. разры́ў -ву *m.*: ***the severance of diplomatic relations*** разры́ў дыпляматы́чных дачынéньняў
**severance pay** плáта пры звальнéньні з прáцы, выхаднáя дапамóга
**severe** [sɪˈvɪr] adj. 1. сувóры, сурóвы, стрóгі: ***a severe sentence*** сурóвы прысýд. 2. цяжкí: ***a severe illness*** цяжкáя хварóба. 3. вóстры, жóрсткі: ***a severe criticism*** вóстрая кры́тыка. 5. стрóгі, прóсты (*пра прычóску, адзéньне*)
**severity** [sɪˈverəti] n., pl. **-ties** 1. стрóгасьць, сурóвасьць *f.* 2. прóстасьць *f.* (*сты́лю, гýсту*). 3. вастрыня́ *f.*; лютасьць, жóрсткасьць *f.*: ***the severity of pain*** вастрыня́ бóлю; ***the severity of storms*** лютасьць навальніцаў. 4. павáжнасьць (*хварóбы*). 5. даклáднасьць, акурáтнасьць *f.*
**sew** [soʊ] v.t. **sewed, sewn** or **sewed, sewing** шы́ць, прышывáць, сшывáць: ***to sew on a button*** прышы́ць гýзік
• ***sew on*** прышы́ць
• ***sew up*** зашы́ць: ***The doctor sewed up the wound*** Дóктар зашы́ў рáну
**sewage** [ˈsu:ɪdʒ] n. сьцёкавыя вóды, каналізáцыя *f.*
**sewer I** [ˈsu:ər] n. каналізацы́йная трубá
**sewer II** [ˈsoʊər] n. шве́ц -яцá *m.*, швáчка *f.*
**sewerage** [ˈsu:ərɪdʒ] n. 1. каналізáцыя *f.* 2. сьцёкавыя вóды
**sewing** [ˈsoʊɪŋ] n. шытвó *n.*
**sewing machine** швéйная машы́на
**sewn** [soʊn] v., *p.p. of* **sew** шы́ты, пашы́ты
**sex** [seks] – n. 1. пол -у *m.*: ***the male sex*** мужчы́нскі пол; ***the female sex*** жанóчы пол. 2. сэкс -у *m.* 3. Informal палавáя сýвязь, палавы́я знóсіны
– adj. палавы́
• ***the fair, gentle sex*** жанчы́ны
• ***the sterner*** or ***stronger sex*** мужчы́ны
**sex appeal** фізы́чная прывáбнасьць
**sextet** or **sextette** [sekˈstet] n. 1. сэкстэ́т -у *m.*, а) кампазы́цыя для шасьцёх галасóў *абó* інструмэ́нтаў. б) грýпа з шасьцёх выканáўцаў. 2. шасьцёрка *f.*
**sexual** [ˈsekʃʊəl] adj. палавы́, сэксуáльны
**sexuality** [ˌsekʃuˈæləti] n. сэксуáльнасьць *f.*
**sexy** [ˈseksi] adj. 1. які́ ўзбуджáе сэксуáльныя пачýцьці. 2. сэксуáльны: ***a sexy novel*** сэксуáльны рамáн
**shabby** [ˈʃæbi] adj. 1. працёрты, знóшаны (*пра вóпратку*). 2. абдзёрты, абадрáны, абшáрпаны, запýшчаны. 3. Figur. несправядлíвы, нíзкі, пóдлы: ***shabby treatment*** несправядлíвае абыхóджаньне
**shack** [ʃæk] – n. 1. бýдка *f.*, будáн, шалáш -á *m.* 2. занядбáная хáта, хацíна *f.*
– v.i., Sl. жыць, кватаравáць, пражывáць: ***He shacks in a boarding house*** Ён жывé ў пансіёне
• ***shack up*** жыць з кім-нéбудзь
**shackles** [ˈʃækəlz] – n., pl. кайданы́, акóвы, нарýчнікі *pl.*; Figur. пýты *pl.*
– v.t. 1. закóўваць у кайданы́. 2. Figur. утаймóўваць; зьнявóльваць
**shade** [ʃeɪd] – n. 1. зáсень *f.*, ценЬ -ю *m.*: ***in the shade of a tree*** у зáсені дрэ́ва; ***light and shade*** сьвятлó й цéнь (*і ў пе-*

*ранósным значэ́ньні*). 2. заслóна ад сьвятлá, жалю́зі, *indecl.* 3. адцéньне (*кóлеру*). 4. цень *f.*, пры́від -у *m.*
– v.t. завéшваць, засланя́ць, зáсьціць ад сьвятлá; зацямня́ць
• ***the shades*** пры́цемак, паўзмрóк (*вéчара*); змрок, цéмра (*нóчы*)

**shadow** [ˈʃædoʊ] – n. 1. цен|ь -ю *m.* (*чалавéка абó прадмéта*). 2. зáсень *f.*, цен|ь -ю *m.* 3. цямнéйшае мéсца ў карціне. 4. кры́шка; малáя ступéнь: ***There's not a shadow of a doubt about his guilt*** Нямá наймéншага сумнéву, што ён вінавáты. 5. здань *f.*, пры́від -у *m.* 6. ахóва *f.*, прыстáнішча *n.*
– v.t. 1. засланя́ць ад сьвятлá: ***be shadowed by*** быць у цяні *чагó*. 2. кідаць цень. 3. неадсту́пна хадзіць за *кім*. 4. Figur. засмучáць; азмрóчваць
• ***be afraid of one's own shadow*** бая́цца свайгó цéню
• ***cast a long shadow*** быць уплывóвым
• ***the shadows*** пры́цем|ак -ку *m.*, паўзмрóк -у *m.*
• ***under*** or ***in the shadow of*** пад засеньню *чагó*: ***We met in a little cafe under the shadow of the cathedral*** Мы спаткáліся ў невялíкай кавя́рні пад засеньню катэ́дры

**shadowy** [ˈʃædoʊi] adj. 1. цянíсты; цёмны. 2. як цень; ня́ясны, невырáзны, слабы́, малы́: ***a shadowy outline*** ня́ясны абры́с. 3. нерэ́альны, пры́відны

**shady** [ˈʃeɪdi] adj. 1. у цéню; зацéнены. 2. цянíсты. 3. сумнéўнай сумлéннасьці; цёмны: ***rather shady occupations*** дóсыць цёмныя заня́ткі

**shaft** [ʃæft] n. 1. дрэ́ўка дзíды *абó* сьця́га; дзíда *f.*, стралá *f.* 2. прамéнь сьвятлá. 3. аглóбля, аглóбліна *f.* 4. вал -а *m.* (*млынá, турбíны*), вось *f.* 5. ру́чка малаткá; тапары́шча. 6. шáхта *f.*: ***an elevator shaft*** лíфтавая шáхта, лíфтавы ствол

**shag** [ʃæg] n. 1. цьвярды́я, пакудлáчаныя валасы́ *абó* поўсьць, кóсмы *pl.* 2. даўгí, цьвярды́ ворс (*сукнá, тканíны*). 3. калмáтая тканíна. 4. махóрка *f.*

**shaggy** [ʃægi] adj. лахмáты, бухмáты, калмáты: ***a shaggy dog*** калмáты сабáка

**shake** [ʃeɪk] – v., **shook, shaken** 1. трэ́сьці; вытрасáць: ***to shake a rug*** вы́трасьці дывáн. 2. страсáць: ***to shake snow off one's clothing*** абтрэ́сьці сьнег з вóпраткі. 3. трэ́сьці, цíснуць, пацíскáць: ***to shake hands*** пацíснуць руку́. 4. страсáць, скаланáць: ***The explosion shook the town*** Вы́бух страсяну́ў гóрад. 5. пахісну́ць (*вéру*)
– v.i. 1. страсáцца, абтрасáцца: ***Sand shakes off easily*** Пясóк лёгка абтрасáецца. 2. трэ́сьціся, калацíцца, дрыжэ́ць (*ад хóладу, стрáху*). 3. хістáцца (*пра адвáгу*)
– n. 1. трасéньне *n.* 2. Informal землятру́с -у *m.* 3. малóчны кактэ́йль ***milk shake***. 4. Sl. імгнéньне *n.*: ***I'll be there in two shakes*** я бу́ду там умóмант
• ***no great shakes*** нічóга вáжнага *абó* незвычáйнага
• ***shake down*** а) страсáць (*пляды́ з дрэ́ва*). б) утрасáць. в) уладкóўвацца. г) Sl. вымагáць грóшы
• ***shake off*** пазбы́цца *кагó-чагó*
• ***shake up*** а) устрэ́сваць, узбóўтваць; мяшáць. б) усхваляўваць
• ***the shakes*** а) трасу́ха, ліхамáнка *f.* б) дры́жыкі *pl.*

**shaken** [ˈʃeɪkən] v., *p.p. of* **shake**

**shake-up** [ˈʃeɪkʌp] n., Informal ператасóўка, перамяшчэ́ньне службóвых асóбаў: ***a shake-up in the government*** чы́стка ў дзяржáўным апарáце

**shaky** [ˈʃeɪki] adj. 1. дрыгóткі: ***a shaky voice*** дрыгóткі гóлас. 2. нямóцны, хісткі. 3. няпэ́ўны, ненадзéйны

**shale** [ʃeɪl] n. слáн|ец -цу *m.*

**shall** [ʃæl] v., *pres.* **shall,** *past and cond.* **should**, *neg.* **should'nt** *ужывáецца*: 1. *у 1-ай асóбе для азначэ́ньня бу́дучыні*: ***I shall come tomorrow*** Я прыйду́ зáўтра; ***We shall consider the matter*** Мы разглéдзім гэ́тую спрáву. 2. *у*

*2-ой і 3-яй асобах для азначэньня ра-шучасьці, прымусу, абавязку або не-абходнасьці*: ***You shall do it*** Ты мусіш гэта зрабіць. 3. *у законах і пастановах*: ***The fine shall not exceed $50*** Штраф не павінен перавышаць 50 даляраў. 4. *ува ўмоўных сказах*: ***if he should die*** калі б ён памёр

**shallot** [ʃə'lɑ:t] n. шалёт -у *m.*, (*расьліна, падобная да цыбулі*)

**shallow** ['ʃælou] – adj. неглыбокі, лёгкі (*пра сон*); плыткі: ***shallow water*** плыткая вада, мель *f.*: ***a shallow dish*** плыткая пасудзіна

– v.i. мялець

**shalt** [ʃælt] v., Poetic, *2nd pers. sing. p.t. of* **shall**: ***Thou shalt not sin*** Не зграшы

**sham** [ʃæm] – n. 1. прыкідваньне, удаваньне *n.*, сымуляцыя *f.* 2. падробка, імітацыя *f.* 3. хлус -а *m.*, манюк|а -і *m.&f.* ; ашукан|ец -ца *m.* 4. накідка *f.*: ***a pillow sham*** дзённая дэкаратыўная накрыўка на падушку

– adj. удаваны: ***a sham battle for practice*** удаваная бітва (*на манэўрах*). 2. падроблены, імітаваны

– v.t. **(-mm-)** удаваць, сымуляваць, прыкідацца: ***He shammed sickness*** Ён прыкінуўся хворым

**shamble** ['ʃæmbəl] – v.i. плесьціся, валачы ногі

– n. цяжкая хада

**shambles** ['ʃæmbəlz] n., pl. or sing. 1. бойня *f.* 2. бойня, разьня *f.*, вайна з масавым зьнішчэньнем. 3. поўны балаган

**shame** [ʃeɪm] – n. 1. сорам -у *m.*, сарамата *f.*: ***Shame on you!*** Як табе ня сорамна! 2. ганьба *f.*: ***to bring shame upon one's family*** прыносіць ганьбу сваёй сям'і. 3. шкода *f.*; прыкрасьць *f.*: ***It is a shame he is so wasteful*** Прыкра, што ён такі марнатраўны; ***What a shame you can't come earlier*** Якая шкода, што ты ня можаш прыйсьці раней

– v.t. 1. саромiць, сарамаціць. 2. ганьбіць

• ***For shame!*** Сорамна!

• ***put to shame*** а) зганьбіць; засароміць. б) перасягнуць, перавысіць; зацьміць (*спрытам, працавітасьцю*)

**shameful** ['ʃeɪmfəl] adj. ганебны, які прыносіць сорам

**shameless** ['ʃeɪmləs] adj. 1. бессаромны; нахабны. 2. непрыстойны, пазбаўлены пачуцьця сораму, сараматны: ***a shameless person*** сараматнік, сараматніца

**shamelessly** ['ʃeɪmləsli] adv. ганебна, бессаромна

**shamelessness** ['ʃeɪmləsnəs] n. нахабства *n.*, бессаромнасьць *f.*

**shammy** ['ʃæmi] n., pl. **-mies** замша *f.*

**shampoo** [ʃæm'pu:] – v.t. 1. мыліць (*валасы*). 2. мыць (*галаву, дыван*)

– n. 1. шампун|ь -ю *m.* 2. мыцьцё галавы

**shamrock** ['ʃæmrɑ:k] n. 1. Bot. трылісьнік -а *m.* (*эмблема Ірляндыі*). 2. Bot. кісьліца звычайная; дзяцеліна *f.*

**shank** [ʃæŋk] n. 1. галёнка *f.* 2. цэлая нага

**shanty** ['ʃænti] n., pl. **-ties** хатка, хаціна *f.*, барак -а *m.*

**shape** [ʃeɪp] – n. 1. форма *f.*: ***the shape of a triangle*** форма трыкутніка. 2. форма *f.*, абрыс -у *m.*: ***to take the shape of*** прымаць форму *каго-чаго.* 3. стан -у *m.*, форма *f.*: ***in bad shape*** у слабым стане; ***to keep oneself in good shape*** трымаць сябе ў добрай форме. 4. парад|ак -ку *m.*: ***to get one's thoughts into shape*** прывесьці свае думкі ў парадак. 5. род -у *m.*: ***dangers of every shape*** небясьпекі ўсякага роду. 6. форма *f.* (*начыньне*)

– v.t. 1. фармаваць. 2. дапасоўваць у форме. 3. надаваць *чаму* пэўную форму *або* характар.

• ***shape up*** а) прымаць форму. б.) прыводзіць сябе ў форму

**shapeless** ['ʃeɪpləs] adj. 1. бясформны. 2. нязграбны, нясклaдны

**shapely** ['ʃeɪpli] adj. 1. прыгожа складзены (*пра чалавека*). 2. прыемнай формы

**share I** [ʃer] – n. 1. до́ля, ча́стка *f.*, удзе́л -у *m.*: ***Do your share of the work*** Зрабі́ нале́жную табе́ ча́стку рабо́ты. 2. а́кцыя *f.*; пaй -ю *m.*, удзе́л -у *m.*
– v.i. дзялі́ць; мець супо́льна: ***The sisters share the same room*** Сёстры жыву́ць ра́зам у адны́м пако́і. 2. дзялі́цца. 3. браць удзе́л
• ***go shares*** дзялі́цца зь не́кім
• ***share and share alike*** дзялі́ць паро́ўну; дзялі́цца паро́ўну

**share II** [ʃer] n. ляме́ш лемяша́, наро́г -а *m.* (*плу́га*)

**shark I** [ʃɑ:rk] n. аку́ла *f.*

**shark II** [ʃɑ:rk] n. 1. вымага́льнік -а *m.*, махля́р -а́ *m.*, ашука́нец -ца *m.* 2. Sl. выда́тны зна́ўца чаго́-н.

**sharp** [ʃɑ:rp] – adj. 1. во́стры; до́бра заво́страны: ***a sharp knife*** во́стры нож. 2. во́страканцо́вы, сьпіча́сты. 3. рапто́ўны, круты́ (*пра паваро́т*). 4. во́стры, рэ́зкі: ***sharp words*** рэ́зкія сло́вы. 5. мо́цны, во́стры: ***a sharp pain*** во́стры боль. 6. выра́зны: ***the sharp contrast*** рэ́зкі, выра́зны кантра́ст. 7. во́стры, то́нкі; адчува́льны: ***a sharp eye*** до́брае во́ка; ***sharp ears*** чу́йныя ву́шы
– adv. 1. дакла́дна: ***at one o'clock sharp*** дакла́дна, ро́ўна а пе́ршай гадзі́не. 2. рапто́ўна, пі́льна: ***Look sharp!*** Глядзі́ ва ўсе́ во́чы, будзь пі́льны
– n. Mus. дые́з -а *m.*

**sharpen** [ˈʃɑ:rpən] – v.t. 1. вастры́ць. 2. завастра́ць. 3. тачы́ць, нато́чваць
– v.i. вастры́цца

**sharp-eyed** [ˌʃɑ:rpˈaɪd] adj. 1. з во́стрым, прані́клівым зро́кам. 2. пі́льны, назіра́льны

**sharp-nosed** [ˌʃɑ:rpˈnoʊzd] adj. 1. вастрано́сы. 2. з до́брым нюхам

**sharpshooter** [ˈʃɑ:rpˌʃu:tər] n. ме́ткі страло́к; сна́йпэр -а *m.*

**shatter** [ˈʃætər] – v.t. 1. разьбіва́ць, расту́шчваць удру́зг (*на кава́лачкі, на дру́зачкі*): ***a stone shattered the window*** ка́мень разьбі́ў акно́. 2. псава́ць, руйнава́ць (*здаро́ўе, нэ́рвы*); разьбіва́ць, разбура́ць (*надзе́ю*). 3. падрыва́ць (*даве́р, здаро́ўе і г.д.*)
– n. аско́лак -ка *m.*
• ***shatters,*** pl. аско́лкі *pl.*

**shave** [ʃeɪv] – v.i. **shaved, shaved** or **shaven**ralі́цца, бры́цца
– v.t. 1. галі́ць, зго́льваць, брыць (*ву́сы*). 2. кро́іць, рэ́заць на то́ненькія скры́лікі. 3. зраза́ць ве́льмі бл́ізка або́ ні́зка (*як траву́*). 4. Figur. зраза́ць: ***The car shaved the corner*** Машы́на ледзь не зачапі́лася за рог
– n. 1. гале́ньне, брыцьцё *n.* 2. струг -а *m.* (*прыла́да*). 3. то́нкі скрылёк
• ***close shave*** на валасо́к ад небясьпе́кі

**shaven** [ˈʃeɪvən] adj. го́лены, бры́ты

**shaving** [ˈʃeɪvɪŋ] n. 1. often ***shavings*** то́ненькія скры́лікі; габлёнка *f.*, стру́жкі. 2. гале́ньне *n.*

**shaving set** прыбо́р для гале́ньня

**shawl** [ʃɔ:l] n. шаль -я *m.*

**she** [ʃi:] – pron., *sing. nom.* **she**, *poss.* **hers** яна́
– n. асо́ба або́ жывёліна жано́чага ро́ду

**sheaf** [ʃi:f] n. **sheaves** сноп снапа́, пук -а́ *m.*: ***a sheaf of wheat*** сноп пшані́цы; ***a sheaf of arrows*** пук стрэ́лаў

**shear** [ʃɪr] – v.t. 1. стры́гчы: ***The farmer sheared his sheep*** Гаспада́р стрыг сваі́х аве́чак. 2. абраза́ць
– n. 1. стры́жка *f.* 2. абстры́жаная во́ўна. 3. адна́ ча́стка нажні́цаў

**shears** [ʃɪrz] n., pl. or sing. но́жны, нажні́цы *pl. only* (*краве́цкія, садо́выя, для стры́жкі аве́чак*)

**sheath** [ʃi:θ] n., pl. **sheaths** но́жны *pl.*, по́хва *f.* (*для мяча́, нажа́*)

**sheathe** [ʃi:ð] v.t. 1. уклада́ць у по́хву (*меч*). 2. абвіва́ць, абмо́тваць: ***a mummy sheathed in linen*** му́мія абві́тая палатно́м

**sheave** [ʃi:v] v.t. зьвя́зваць а) у снапы́ (*збо́жжа*). б) у пукі́ (*лён*)

**shed I** [ʃed] n. 1. а) хлеў, -ява́ *m.* (*для жывёлы*). б) сьві́ран -на *m.*, пу́ня *f.* (*для се́на*). в) паве́ць, паве́тка *f.* (*для

*дро́ваў*). 2. дэпо́, *n., indecl.*: ***a train shed*** чыгу́начнае дэпо́. 4. анга́р -а *m.*

**shed II** [ʃed] – v., **shed** 1. праліва́ць: ***He shed his blood for his country*** Ён праліва́ў кроў за свой край. 2. разьліва́ць. 3. скіда́ць, ліня́ць; мяня́ць: ***The snake sheds its skin*** Вуж мяня́е ску́ру. 4. аддава́ць, распаўсю́джваць: ***The sun sheds light*** Со́нца выпраме́ньвае сьвятло́

– v.i. скіда́ць ску́ру, мяня́ць ро́гі; ліня́ць (*мяня́ць пе́р'е, поўсьць*): ***The snake has just shed*** Вуж то́лькі што скі́нуў ску́ру

• ***shed blood*** праліва́ць кроў, зьнішча́ць жыцьцё, забіва́ць

• ***shed one's own blood*** ахвярава́ць сваё жыцьцё

**she'd** [ʃi:d] = **she had, she would**

**sheen** [ʃi:n] n. бляск -у, гля́н|ец -цу *m.*

**sheep** [ʃi:p] n., pl. **sheep** аве́чка *f.*, бара́н -а́ *m.*

• ***make sheep's eyes*** кіда́ць закаха́ныя по́зіркі

**sheepcote** [ˈʃi:pkoʊt] n. аве́чы хлеў, аўча́рня *f.*, аве́чнік -а *m.*

**sheep dog** аўча́рка *f.*

**sheepherder** [ˈʃi:pˌhɜ:rdər] n. аўча́р -а́ *m.*

**sheepman** [ˈʃi:pmən] n., pl. **-men** 1. авечкагадо́|вец -ўца *m.* 2. аўча́р -а́ *m.* (*пасту́х*)

**sheep range** аве́чае па́сьбішча

**sheepskin** [ˈʃi:pskɪn] n. 1. аўчы́на *f.* 2. пэрга́мэнт -у *m.* 2. Informal дыплём -у *m.*

**sheepskin coat** кажу́х -а́ *m.*

**sheer I** [ʃɪr] – adj. 1. лёгкі, ама́ль празры́сты: ***a sheer white dress*** лёгкая бе́лая суке́нка. 2. по́ўны, абсалю́тны: ***sheer exhaustion*** по́ўнае зьнясі́леньне; ***sheer waste of time*** адна́ тра́та часу. 3. стро́мкі, стро́мы (*спад, скала́*), вэртыка́льны

– adv. 1. ца́лкам, зусі́м. 2. ве́льмі стро́мка

**sheer II** [ʃɪr] – v.i. адхіля́цца ад ку́рсу; зваро́чваць у бок

– n. адхіле́ньне ад ку́рсу

**sheerly** [ˈʃɪrli] adv. абсалю́тна; ца́лкам; зусі́м; про́ста: ***sheerly out of curiosity*** про́ста зь ціка́васьці

**sheet** [ˈʃi:t] n. 1. по́сьцілка, прасьціна́ *f.*, прасьці́радла *n.* 2. ліст -а́ *m.* (*шкла, мэта́лу*), а́ркуш (*папе́ры*). 3. Informal газэ́та *f.* 4. пласт -у *m.*: ***a sheet of ice*** пласт лёду

**sheet iron** ліставо́е жале́за

**sheet lightning** зарні́ца *f.*, во́дбліск далёкай навальні́цы

**sheik** or **sheikh** [ʃi:k] n. шэйх -а *m.*

**shelf** [ʃelf] n., pl. **shelves** 1. палі́ца *f.*: ***to put on the shelf*** адклада́ць, адкіда́ць як непатрэ́бнае *або́* непажада́нае. 2. во́дмель *f.* 3. шэ́льф -а *m.*

• ***off the shelf*** станда́ртны, гато́вы (*праду́кт*)

**shell** [ʃel] – n. 1. а) ра́кавінка *f.* (*сьлімака́, ву́стрыцы*). б) па́нцыр -а *m.* (*ра́ка, кра́ба, чарапа́хі*). 2. шкарлу́піна *f.* (*арэ́ха, я́йка*). 3. гі́льза патро́на, патро́н -а *m.* 4. снара́д -а *m.*, грана́та *f.*

– v.t. 1. лу́шчыць (*струкі́ гаро́ху, арэ́хі*). 2. абіра́ць (*зе́рне кукуру́зы*); ***to shell grain (in a mill)*** шатрава́ць жы́та (у млыне́). 4. абстрэ́льваць (*снара́дамі*): ***The enemy shelled the town*** Во́раг абстрэ́льваў го́рад артылеры́йскім агнём

• ***shell out,*** Informal дава́ць, раздава́ць (*гро́шы*), раскашэ́львацца

**she'll** [ʃi:l] = **she shall**, **she will**

**shellfish** [ˈʃelfɪʃ] n., pl. coll. **-fish** or **-fishes** ракападо́бныя *pl.*

**shellproof** [ˈʃelprʊf] adj. бранірава́ны

**shellshock** [ˈʃelʃɑ:k] n. канту́зія *f.*

**shelter** [ˈʃeltər] – n. прыту́л|ак, прыпы́н|ак -ку *m.*, прыпы́нішча *n.*; схо́вішча *n.*

– v.t. дава́ць прыту́лак, прытуля́ць; засланя́ць, ахо́ўваць (*ад ве́тру, со́нца*); хава́ць ад небясьпе́кі

– v.i. знахо́дзіць прыпы́нак, схо́вішча

**shelve** [ʃelv] v.t. 1. кла́сьці на палі́цу. 2. адклада́ць (*разгля́д, спрэ́чку*)

**shelves** [ʃelvz] n., *pl. of* **shelf**

**shepherd** [ˈʃepərd] n. 1. пасту́х аве́чак. 2. па́стыр -а *m.*, духо́ўны апяку́н

***• the Good Shepherd*** Добры Пастыр (*пра Ісуса Хрыста*)

**shepherdess** [ˈʃepərdəs] n. пастушка *f.*

**sheriff** [ˈʃerɪf] n. шэрыф -а *m.*

**sherry** [ˈʃeri] n., pl. **-ies** шэры *n., indecl.,* (*віно*)

**shield** [ʃi:ld] – n. 1. шчыт -а *m.* 2. ахова *f.* 3. Tech. экран -а *m.*

– v.t. абараняць, ахоўваць, засланяць

– v.i. служыць абаронай, аховай, заслонай

**shift** [ʃɪft] – v.t. 1. перасоўваць (*на іншае месца*); перадаваць (*другому*); перакладаць (*у другую руку*); зьмяняць: ***He shifted the heavy bag from one hand to the other*** Ён пераклаў цяжкі мех з аднае рукі ў другую. 2. сьпіхваць (*адказнасьць*). 3. замяняць (*дэкарацыю на сцэне*). 4. пазбаўляцца. 5. мяняць хуткасьць аўтамабіля

– v.i. зьмяняцца: ***The wind has shifted to the southeast*** Вецер зьмяніўся на паўдзённа-ўсходні. 2. махляваць, рабіць змову. 3. спраўляцца, даваць сабе рады

– n. 1. зьмена *f.*: ***night shift*** начная зьмена. 2. зрух -у *m.*, перамяшчэньне *n.* 3. хітрыка *f.*, выкрут, спосаб -у *m.*: ***to try every shift*** прабаваць усіх спосабаў. 4. Geol. касое зрушэньне

***• make shift*** а) даваць сабе рады. б) перабівацца, ледзь даваць сабе рады. в) рабіць, як выходзіць

***• shift the blame*** зваліць віну на другога

**shiftless** [ˈʃɪftləs] adj. вялы, лянівы; бездапаможны, няспраўны

**shifty** [ˈʃɪfti] adj. 1. хітры, выкрутлівы. 2. хуткі, шпаркі, спрытны, спраўны

**shilling** [ˈʃɪlɪŋ] n. шылінг, 1/20 фунта (*колішняя брытанская грашовая адзінка*)

**shimmer** [ˈʃɪmər] – v.i. мільгаць, міргаць, мільгацець, мігацець, мігцець; зіхацець

– n. мігаценьне, мігценьне *n.*

**shimmery** [ˈʃɪməri] adj. мігатлівы

**shin** [ʃɪn] – n. галёнка *f.*

– v.i. караскацца: ***to shin up a tree*** ускараскацца на дрэва

**shinbone** [ˈʃɪnboʊn] n. галёначная косьць

**shine** [ʃaɪn] – v., **shone** or **shined** 1. сьвяціць; сьвяціцца, блішчэць, зіхацець. 2. вызначацца: ***Mary shines in French*** Марыя вызначаецца ведамі францускае мовы. 3. ваксаваць: ***to shine shoes*** ваксаваць, глянцаваць чаравікі

– n. 1. сонечнае сьвятло *n.* 2. бляск -у, глянец -цу *m.* 3. пагода *f.*, сонечнае надвор'е: ***rain or shine*** дождж ці пагода, у кожным разе

***• shine up to,*** Sl. паддобрывацца да *каго*

***• take a shine to,*** Sl. спадабаць, упадабаць, моцна палюбіць *каго-што*

**shingle I** [ˈʃɪŋgəl] – n. 1. гонта, дранка *f.* 2. Informal малая шыльда

– v.t. крыць гонтамі, дранкай (*дах*)

***• hang out one's shingle,*** Informal адкрыць кабінэт (*пра лекара, адваката*)

**shingle roof layer** гантар -а *m.*

**shingle II** [ˈʃɪŋgəl] n. 1. галька *f.*, буйная жарства. 2. пляж *або* месца, пакрытае галькай

**shingles** [ˈʃɪŋgəlz] n., pl., Med. ішыяс -у *m.*

**shining** [ˈʃaɪnɪŋ] adj. 1. сьветлы, ясны, бліскучы. 2. выдатны, надзвычайны (*пра здольнасьці, дасягненьні*)

**shiny** [ˈʃaɪni] adj. 1. бліскучы, сьветлы, ясны: ***a shiny new nickel*** бліскучы новы нікель (*пяціцэнтавая манэта*). 2. выцерты, вынашаны; зашмальцаваны (*пра вопратку*)

**ship** [ʃɪp] – n. 1. карабель -ля *m.*, вадаплаў, параплаў -ва *m.* 2. самалёт -а *m.*, касьмічны карабель. 3. экіпаж карабля

– v.t., **(-pp-)** 1. грузіць (-ца) на карабель, праводзіць пасадку. 2. сядаць на карабель, вадаплаў, падарожнічаць вадаплавам. 3. пасылаць, перавозіць тавар, пасылку. 4. набіраць экіпаж. 5. паступаць, наймацца на службу на караблі: ***He shipped as***

***cook*** Ён наня́ўся на карабе́ль ку́харам

• ***give up the ship*** здава́цца, пакіда́ць карабе́ль

• ***jump ship*** ско́чыць з карабля́, уцячы́

• ***one's ship comes in*** or ***home*** здабы́ць, атрыма́ць бага́цьце; быць у грашо́х

• ***run a tight ship*** быць до́брым кіраўніко́м, мо́цна кірава́ць

• ***ship out*** вы́ехаць, зье́хаць

**shipboard** [ˈʃɪpbɔ:rd] n. карабле́ль -ля́ *m.* ***on shipboard*** на караблі́

**shipload** [ˈʃɪploʊd] n. груз, пакла́жа карабля́

**shipmaster** [ˈʃɪpmæstər] n. капіта́н карабля́

**shipment** [ˈʃɪpmənt] n. 1. пагру́зка тава́ру. 2. вы́сылка, перасы́лка тава́раў. 3. груз -у *m.*

**shipping** [ˈʃɪpɪŋ] n. 1. перасы́лка тава́раў, гру́заў. 2. а) coll. караблі́, гандлёвы флёт. б) агу́льны тана́ж. 3. флёт дзяржа́вы, кампа́ніі

**shipwreck** [ˈʃɪprek] – n. 1. караблекрушэ́ньне *n.* 2. разьбі́ты карабе́ль. 3. разбурэ́ньне, разьбі́цьцё *n.* (*пля́наў*); руі́на *f.*

– v.t. Figur. бurýць, разбура́ць, руйнава́ць; ні́шчыць

– v.i. цярпе́ць караблякрушэ́ньне

**shipwright** [ˈʃɪpraɪt] n. караблебудаўні́к -а́ *m.*

**shipyard** [ˈʃɪpjɑ:rd] n. вэрф *f.*

**shirk** [ʃɜ:rk] – v.i. выкру́чвацца, ухіля́цца (*ад пра́цы, абавя́зкаў*)

– n. хітру́н -а́ *m.*, хто ўхіля́ецца

**shirt** [ʃɜ:rt] n. 1. мужчы́нская кашу́ля, саро́чка *f.* 2. жано́чая блю́зка ў падо́бным сты́лі

• ***keep one's shirt,*** Sl. не хвалява́цца, быць спако́йным

• ***lose one's shirt,*** Sl. заста́цца без кашу́лі; усё стра́ціць, што меў

**shirtsleeve** [ˈʃɜ:rtsli:v] adj. без пінжака́, нефарма́льны

**shiver I** [ˈʃɪvər] – v.i. трэ́сьціся, калаці́цца, дрыжэ́ць: ***He is shivering*** Яго́ трасе́; ***to shiver with fever*** калаці́цца ў ліхама́нцы

– n. дрыжа́ньне, дры́жыкі *pl.* (*ад хо́ладу, стра́ху*)

**shiver II** [ˈʃɪvər] – v.t. драбі́ць (*на кава́лачкі, на дру́зачкі*)

– n. дро́бныя аско́лкі, кава́лачкі

**shivery** [ˈʃɪvəri] adj. 1. дрыго́ткі. 2. сьцюдзёны

**shoal I** [ʃoʊl] n. 1. мель, мялі́на *f.* 2. плы́ткае ме́сца

**shoal II** [ʃoʊl] n. мно́ства *n.*, ма́са *f.*: ***a shoal of troubles*** ма́са кло́патаў

**shock I** [ʃɑ:k] – n. 1. уда́р -у *m.*, штуршо́к -ка́ *m.*, гвалто́ўнае страсе́ньне: ***earthquake shocks*** штуршкі́ землятру́су. 2. цяжкі́ (*мара́льны*) уда́р. 3. (*нэрво́вы*) шок, узрушэ́ньне *n.*

– v.t. 1. гвалто́ўна ўда́рыць. 2. ашаламля́ць; ура́жваць; абура́ць. 3. бі́ць электрашо́кам

– v.i. сутыка́цца, сту́кацца зь вялі́кай сі́лай

• ***shock therapy*** лячэ́ньне электрашо́кам

**shock II** [ʃɑ:k] n. ку́чма *f.*

**shock III** [ʃɑ:k] n. капа́ *f.*, мэ́ндлік -а *m.*

**shock absorber** амартыза́тар -а *m.*

**shocking** [ˈʃɑ:kɪŋ] adj. 1. жахлі́вы, ашаламля́льны. 2. сканда́льны; агі́дны, ганe̗бны, абура́льны. 3. Informal ве́льмі благі́

**shod** [ʃɑ:d] v., *p.t. and p.p. of* **shoe** а) абу́ты. б) падкава́ны (*пра каня́*)

**shoe** [ʃu:] – n., pl. **shoes** 1. чараві́к -а *m.* 2. падко́ва *f.* (*у каня́*). 3. накане́чнік -а *m.* 4. тармазна́я кало́дка. 5. гумо́вая шы́на

– v.t. **shod, shoeing** 1. абува́ць. 2. падко́ўваць (*каня́*)

• ***be in another's shoes*** быць на ме́сцы друго́га, быць у чужо́й ску́ры

• ***fill another's shoes*** заня́ць ме́сца друго́га

**shoeblack** [ˈʃu:blæk] n. чысьці́льнік бо́таў

**shoehorn** [ˈʃu:hɔ:rn] n. ражо́к -ка́ *m.* (*для надзява́ньня абу́тку*)

**shoelace** [ˈʃu:leɪs] n. шнурlóк, матузlóк -кá *m.* (*для чаравíкаў*)
**shoemaker** [ˈʃu:meɪkər] n. шаlвéц -ўцá *m.*
**shoemaking** [ˈʃu:meɪkɪŋ] n. шавéцтва *n.*
**shoe polish** вáкса *f.* (*для чаравíкаў*)
**shoeshine** [ˈʃu:ʃaɪn] n. 1. чышчэ́ньне, ваксавáньне абу́тку. 2. чысьцíльнік абу́тку
**shone** [ʃoʊn] v.i., *p.t and p.p. of* **shine**
**shoo** [ʃu:] interj. кыш, акы́ш (*праганяючы*), прэч! вон!
**shook** [ʃʊk] v., *p.t. and p.p. of* **shake**
**shoot** [ʃu:t] – v., **shot, shooting** 1. страля́ць: ***to shoot a rabbit*** застрэ́ліць зáйца; ***to shoot a plane*** зьбíць самалёт. 2. кíдаць: ***He shot question after question at us*** Ён кíдаў нам пытáньне за пытáньнем. 3. праімчáцца, пранéсьціся: ***A car shot by us*** Машы́на праімчáлася паўз нас. 4. распускáцца, пускáць пáрасткі (*пра расьлíны*). 5. фатаграфавáць
– n. 1. практыкавáньне *абó* спабóрніцтва ў стральбé. 2. пáрастlак -ка *m.* 3. нахíлены сьцёк, жóлаб -а *m.*
• ***shoot down*** а) забíць стрэ́лам. б) зьбíць (*самалёт*)
• ***shoot up*** а) ху́тка расьці. б) вы́сіцца, уздымáцца ўгóру. в) Sl. укалóцца (*прыня́ць наркóтык*)
**shooting star** зьнíчка *f.*, мэтэóр -а *m.*
**shop** [ʃɑ:p] – v.i. **(-pp-)** 1. купля́ць, закупля́цца. 2. прыцэ́ньвацца, хадзíць па крáмах: ***We shopped all morning for a coat*** Усю́ рáніцу мы хадзíлі, каб купіць палітó
– n. 1. крáма *f.* 2. майстэ́рня *f.*: ***a carpenter's shop*** сталя́рня *f.*; ***a barber shop*** цыру́льня *f.*
• ***set up shop*** пачáць працавáць *абó* гандлявáць
• ***shut up shop*** скóнчыць прáцу; зачыні́ць крáму, спыніць гандаль
**shopkeeper** [ˈʃɑ:pˌki:pər] n. крáмнік -а *m.*, крáмніца *f.*; улáсьнік майстэ́рні
**shoplifter** [ˈʃɑ:pˌlɪftər] n. крáмны злóдзей
**shopper** [ˈʃɑ:pər] n. пакупнíк -а *m.*, пакупнíца *f.*
**shopping** [ˈʃɑ:pɪŋ] n. купля́ньне *n.*, зáкупы *pl.*
• ***go shopping*** ісьцí на зáкупы
**shopping centre** or **shopping plaza** гандлёвы квартáл, цэ́нтар *абó* пляц
**shoptalk** гу́тарка на прафэсíйныя тэ́мы, прафэсíйны жаргóн
**shore** [ʃɔ:r] n. 1. бéраг мóра, вóзера. 2. су́ша, зямля́ *f.*
• ***off shore*** ля берагóў, у мóры, на мóры
**shoreward** [ˈʃɔ:rwərd] adv., adj. да бéрагу
**short** [ʃɔ:rt] – adj. 1. карóткі: ***a short distance*** карóткая адлéгласьць; ***a short time*** карóткі час. 2. а) нізкарóслы. б) нíзкі: ***short grass*** нíзкая травá. 3. няпóўны: ***short weight*** няпóўная вагá; ***We are short of hands*** У нас не стаé рабóтнікаў. 4. рэ́зкі, нецярплíвы: ***He was very short with me*** Ён быў рэ́зкі са мнóю
– adv. 1. кóратка, карóтка. 2. рáптам, нечакáна: ***The horse stopped short*** Конь рáптам стаў
• ***cut short*** рáптам закóнчыць, абарвáць
• ***fall short*** а) не дасягну́ць. б) не ставáць, не хапáць
• ***for short*** карацéй кáжучы, у скарóце
• ***in short*** карацéй кáжучы
• ***run short*** вычэ́рпвацца, спусташáцца, канчáцца
• ***sell short*** недаацэ́ньваць
• ***short for*** у скарóце: ***Photo is short for photograph*** Фóта — фатагрáфія ў скарóце
• ***short on*** у нястáчы, недахóпе чагó-н.
• ***shorts*** карóткія пóртачкі, шóрты *pl.*
**shortage** [ˈʃɔ:rtɪdʒ] n. недахóп -у *m.*; нястáча *f.*
**shortbread** [ˈʃɔ:rtbred] n. пясóчны кóржык
**shortcake** [ˈʃɔ:rtkeɪk] n. пірóг з крэ́мам і садавінóю
**short circuit** карóткае замыкáньне
**short-circuit** [ˌʃɔ:rtˈsɜ:rkət] v.t. 1. выклікáць карóткае замыкáньне. 2. Informal пазьбягáць, абыхóдзіць, абмінáць

**shortcoming** [ˈʃɔ:rtˌkʌmɪŋ] n. загáна *f.*, недахóп, дэфэ́кт -у *m.*

**shortcut** карацéйшая, хутчэ́йшая дарóга

**short-cut** [ˈʃɔ:rtkʌt] – v.i. **-cut, -cutting** ісьці нацянькí, напрасткí, наўпрóст, напражкí
– v.t. абмінáць, пайшóўшы нацянькí: ***to short-cut a city*** абмінуць гóрад

**shorten** [ˈʃɔ:rtən] – v.t. 1. скарачáць; адрэ́зваць. 2. дадавáць да цéста тлýшчу. 3. апускáць (*скрýчваць*) вéтразі
– v.i. скарачáцца

**shortening** [ˈʃɔ:rtnɪŋ] n. 1. тлушч -у *m.* 2. скарачэ́ньне *n.*

**shorthand** [ˈʃɔ:rthænd] – n. стэнагрáфія *f.*
– adj. 1. стэнаграфавáны. 2. якí стэнаграфýе: ***shorthand secretary*** стэнаграфíстка *f.*

**short-handed** [ˌʃɔ:rtˈhændɪd] adj. зь недахóпам працаўнікóў

**short-lived** [ˌʃɔ:rtˈlaɪvd] adj. недаўгавéчны; якí трывáе кóратка, нядóўга

**shortly** [ˈʃɔ:rtli] adj. неўзабáве, зáраз; незадóўга да: ***shortly before my arrival*** незадóўга да майгó прыéзду

**short-sighted** [ˌʃɔ:rtˈsaɪtɪd] adj. 1. блізарýкі. 2. Figur. непрадбáчлівы, недальнабáчны: ***a short-sighted strategy*** недальнабáчная стратэ́гія

**short-tempered** [ˌʃɔ:rtˈtempərd] adj. нястры́маны, запáльчывы, гарáчы, хýткі да злóсьці

**short-term** [ˌʃɔ:rtˈtɜ:rm] adj. карóткатэрмінóвы, на карóткі час: ***short-term plans*** пля́ны на карóткі час; ***short-term investment*** карóткатэрмінóвы ўклáд грóшай

**short wave** карóткая хвáля (*рáдыё*)

**short-wave** [ˈʃɔ:rtweɪv] v.t. перадавáць на карóткіх хвáлях

**short-winded** [ˌʃɔ:rtˈwɪndɪd] adj. якí мýчыцца задыы́шкай; дыхавíчны

**shot I** [ʃɑ:t] – n., pl. **shots** 1. стрэл -у *m.*; страля́ньне *n.*, стральбá *f.* 2. шрацíна *f.*, шрот -у *m., coll.*; кýля *f.*, снарáд -а *m.* 3. стралóк -кá *m.*: ***He is a good shot*** Ён дóбры стралóк. 4. здымак -ку *m.*; кадр -у *m.* (*сцэ́на з кінафíльму*). 5. Sl. чáрка вíскі. 6. укóл -у *m.*, ін’éкцыя *f.*
– v.t. 1. зараджáць (*стрэ́льбу, гармáту*). 2. спрабавáць, рабíць спрóбу
• ***big shot,*** Informal вáжная шы́шка
• ***call the shots,*** Informal быць завадáтарам, верхавóдзіць, вéсьці рэй
• ***like a shot*** зáраз жа, умíг, умóман[illegible]
• ***not by a long shot*** ані блíзка, зусíм не
• ***shot in the arm*** а) укóл у рукý. б) сты́мул

**shot II** [ʃɑ:t] – v. 1. *p.t. and p.p. of* **shoot**
– adj. заткáны: ***blue silk shot with gold*** сíні шоўк заткáны залатóй нíткай
• ***shot through with*** пóўны *чагó*

**should** [ʃʊd] v., *p.t. of* **shall**. ***Should*** *ужывáецца для выкáзваньня* а) *абавя́зку*: ***You should try to make fewer mistakes*** Ты павíнен старáцца рабíць менш памы́лак; ***I should go*** Мне трэ́ба йсьцí. б) *умóўнасьці*: ***If he should win the prize, how happy he would be*** Калі б ён вы́йграў узнагарóду, якí б шчасьлíвы ён быў; ***I should have gone if you had asked me*** Я пайшóў бы, калí б ты папрасíў мяне́. в) *умóвы або прычы́ны*: ***He was pardoned on the condition that he should leave the country*** Ягó памíлавалі з умóвай, што ён пакíне край. г) *у пытáньнях з* ***why*** *пакáзвае на беспадстáўнасьць, неверагóднасьць меркавáньня*: ***Why should you think that I did not like the book?*** Чамý ты дýмаеш, што мне не спадабáлася гэ́тая кнíга?

**shoulder** [ˈʃoʊldər] – n. 1. плячó *n.*, плячýк плечукá *m.* 2. лапáтка *f.* (*у мясной тýшы*). 3. узбóчына *f.* (*дарóгі, аўтастрáды*)
– v.i. 1. узвáльваць на плéчы, абапірáць на плячó. 2. брáць на сябé (*адкáзнасьць, вінý*). 3. працíхвацца, праштурхóўвацца, працíскáцца: ***He shouldered his way through the crowd*** Ён працíснуўся праз натóўп

• ***Shoulder arms!*** На плячо́! (*кама́нда*)

• ***shoulders*** пле́чы *pl.* (*ча́стка це́ла й во́пратк*і): ***wide in shoulders*** шы́ракапле́чы

• ***shoulder to shoulder*** плячо́ ў плячо́, а) блі́зка, по́бач з *кім*, б) у це́сным адзінстве, ра́зам

• ***straight from the shoulder*** про́ста з пляча́

• ***turn or give a cold shoulder*** хо́ладна сустрэ́ць *або́* прыня́ць *каго́*

**shoulder blade** лапа́тка *f.* (*косьць*)

**shoulder pad** плячу́к плечука́ *m.* (*у жаке́це, суке́нцы*)

**shoulder strap** 1. шле́йка *f.* (*ста́ніка*). 2. паго́н -а *m.*

**shouldn't** [ˈʃʊdənt] = **should not**

**shout** [ʃaʊt] – v.i. 1. крыча́ць; гука́ць, галёкаць. 2. гу́чна гавары́ць

– n. 1. крык -у *m.*, гамана́ *f.*

• ***shout down*** перакрыча́ць, заглушы́ць кры́кам, прыму́сіць змо́ўкнуць

**shouter** [ˈʃaʊtər] n. крыку́н -а́ *m.*, гарлапа́н, гарладзёр -а *m.*

**shouting** [ˈʃaʊtɪŋ] n. го́ман -у *m.*, гамана́ *f.*

**shove** [ʃʌv] – v.t. 1. пасо́ўваць, папі́хваць (*на ме́сца*); пхаць, піха́ць. 2. шту́рхаць

– n. штуршІо́к -ка́, напо́р -у *m.* (*ззаду*)

• ***shove off*** а) адапхну́цца, адплы́ць, адвеславаць ад бе́рагу. б) Informal адысьці́ся, ад'е́хаць, ру́шыць у даро́гу

**shovel** [ˈʃʌvəl] – n. 1. лапа́та *f.* ; шу́фІаль -ля *m.*: ***a coal shovel*** шу́фаль для ву́галю

– v.t. набіра́ць, насыпа́ць шу́флем. 2. адкіда́ць лапа́тай: ***to shovel snow from the road*** адкіда́ць з даро́гі сьнег. 3. пра́гна е́сьці (*пра гало́днага*)

**shovelful** [ˈʃʌvəlfʊl] n., pl. **-fuls** по́ўны шу́фаль

**show** [ʃoʊ] – v.t. 1. пака́зваць. 2. растлума́чваць, пака́зваць. 3. даво́дзіць: ***He showed that it was true*** Ён давёў, што гэ́та была́ пра́ўда. 4. ака́зваць, выяўля́ць: ***to show mercy*** аказа́ць ла́ску

– n. 1. а) пака́з -у *m.*, выста́ва, вы́стаўка *f.*: ***a horse show*** пака́з ко́ней. б) спэкта́клІь -ю *m.*, прадстаўле́ньне *n.* 2. вы́гляд -у *m.* 3. Informal кінафі́льм -у *m.* 4. пасьме́шышча *n.*: ***Don't make a show of yourself*** Не рабі́ зь сябе пасьме́шышча́! 5. Sport трэ́цяе ме́сца ў спабо́рніцтве

• ***for show*** напака́з, каб прыцягну́ць ува́гу

• ***run the show*** не́сьці абавя́зкі, кама́ндаваць пара́дам

• ***show in*** право́дзіць, уве́сьці (*у дом, пако́й*)

• ***show off*** пуска́ць пыл у во́чы; задава́цца

• ***show out*** вы́весьці, праве́сьці да дзьвярэ́й (*го́сьця*)

• ***show up*** а) вы́крыць, вы́явіць (*ашука́нца*). б) вы́ставіць на пасьме́шышча. в) вылуча́цца *чым*, быць выда́тным у *чым*. г) прыйсьці́, прыбы́ць, зьяві́цца

• ***steal the show*** выклі́каць найбо́льш во́плескаў, пахвалы́

**show bill** тэатра́льная афі́ша

**showcase** вітры́на *f.*

**shower** [ʃaʊr] – n. 1. каро́ткі дождж. 2. душ -у *m.* 3. вечары́нка з падару́нкамі ў жанчы́ны, яка́я выхо́дзіць за́муж або́ нараджа́е дзіця́

– v.i. 1. паліва́ць, пы́рскаць вадо́ю. 2. браць душ, мы́цца пад ду́шам. 3. абдаро́ўваць: ***They showered gifts upon her*** Яны́ засы́палі яе́ падару́нкамі

**showery** [ˈʃaʊri] adj. дажджлі́вы

**show-off** [ˈʃoʊɔːf] n. 1. задава́ньне, выстаўля́ньне *n.* 2. Informal хвалькІо́ -а́ *m.*

**showiness** [ˈʃoʊɪnəs] n. пы́шнасьць *f.*, раско́ша напака́з, шыко́ўнасьць *f.*

**showroom** [ˈʃoʊrʊm] n. за́ля для пака́зу

**show window** вітры́на

**showy** [ˈʃoʊi] adj. 1. пы́шны; раско́шны; які́ кі́даецца ў во́чы; шыко́ўны (*пра во́пратку*). 2. зана́дта я́ркі, страка́-

ты, крыклíвы. 3. паказны́, разьлíчаны на эфэ́кт; няшчы́ры

**shrank** [ʃræŋk] *v.i., p.t. of* **shrink**

**shred** [ʃred] – n. 1. шматlóк -кá *m.*, абрэ́зlак -ка *m.*, абры́вак (*скýры, тканíны*): ***The wind tore the sail to shreds*** Вéцер парвáў вéтразь на шматкí. 2. кавáлlак -ка *m.*: ***not a shred of evidence*** нi наймéншага дóказу
– v.t. 1. рэ́заць *абó* рвáць на малы́я кавáлачкі. 2. шаткавáць: ***shredded cabbage*** шаткавáнка *f.*

**shrew** [ʃru:] n. 1. сварлíвая жанчы́на, зьлю́ка *f.* 2. Zool. землярыйка *f.* (*мыш*)

**shrewd** [ʃru:d] adj. 1. а) разýмны, з вóстрым пранíклівым рóзумам; спры́тны: ***a shrewd businessman*** спры́тны прадпрымáльнік. б) ***a shrewd argument*** трáпны дóвад. 2. дасьцíпны, вóстры

**shrewish** [ˈʃru:ɪʃ] adj. сварлíвы, дакýчлівы

**shriek** [ʃri:k] – n. мóцны, прарэ́зьлівы крык, віск, сьвіст -у *m.*,: ***the shriek of an engineer's whistle*** прарэ́зьлівы гук паравóзнага сьвісткá. 2. гýчны рóгат
– v.i. прарэ́зьліва крычáць, вішчáць

**shrill** [ʃrɪl] adj. рэ́зкі, пранíзьлівы, прарэ́зьлівы; вісклíвы: ***the shrill merriment of children*** вісклíвая забáва дзяцéй

**shrimp** [ʃrɪmp] n., pl. **shrimps** or coll. **shrimp** 1. крэвэ́тка *f.* 2. Sl. малы́, малавáжны чалавéк

**shrine** [ʃraɪn] n. 1. грабнíца з мóшчамі сьвятóга. 2. мéсца пакланéньня, прóшча, сьвяты́ня *f.* (*рэлігíйная абó нацыянáльная*)

**shrink** [ʃrɪŋk] – v.i. **shrank** or **shrunk, shrunk** or **shrunken** 1. сьсядáцца, садзíцца, зьбягáцца (*пра тканíну, адзéньне*). 2. адскóкваць, адхінáцца (*ад удáру*): ***The dog shrank from the whip*** Сабáка ўхілíўся ад пýгі. б) ухілáцца, унікáць, пазьбягáць: ***A shy person shrinks from making new acquaintances*** Сарамлíвы чалавéк неахвóтна знаёміцца з нóвымі людзьмí
– v.t.: ***Hot water shrinks wool*** У гарáчай вадзé вóўна сьсядáецца

**shrinking** [ˈʃrɪŋkɪŋ] n. сьсядáньне, зьбягáньне *n.*

**shrinkable** [ˈʃrɪŋkəbəl] adj. які́ сьсядáецца

**shrinkage** [ˈʃrɪŋkɪdʒ] n. 1. сьсядáньне, зьбягáньне *n.* (*тканíны*). 2. усáдка *f*: ***a shrinkage of two centimetres*** усáдка на два сантымэ́тры

**shrivel** [ˈʃrɪvəl] – v.t. 1.высýшваць, змóршчваць; карабáціць. 2. рабíць бездапамóжным *абó* непрыдáтным
– v.i. 1. ссыхáцца; мóршчыцца; карабáціцца (*напр. чаравíкі*). 2. псавáцца, рабíцца непрыдáтным

**shroud** [ʃraʊd] – n. 1. сáван -а *m.* 2. пóкрыва *n.* (*нóчы, імглы́*)
– v.t. 1. захінáць цéла для пахавáньня. 2. пакрывáць, ахінáць: ***The earth is shrouded in darkness*** Зямлю́ ахінýла цéмра
• ***shrouds*** вáнты *pl.* (*для ўмацавáньня вéтразяў*)

**shrub** [ʃrʌb] n. куст -á *m.*

**shrubbery** [ˈʃrʌbəri] n., pl. **-beries** 1. кусты́, *coll.* 2. хмыз -у, хмызьня́к -ý *m.*; зáрасьнік -у *m.*

**shrubby** [ˈʃrʌbi] adj. хмызьнякóвы, парóслы хмызьняком

**shrug** [ʃrʌg] – v.t. **(-gg-)** паціскáць, пацéпваць (*плячы́ма*)
– n. пацéпваньне плячы́ма
• ***shrug off*** адмахнýцца

**shrunk** [ʃrʌŋk] v., *p.t. and p.p. of* **shrink**

**shuck** [ʃʌk] – n. 1. шалупíна *f.*; струк -á *m.* 2. Informal лухтá, дрэнь *f.*
– v.t. аблýпліваць

**shucks** [ʃʌks] interj. А лíха на ягó!

**shudder** [ˈʃʌdər] – v.i. уздры́гваць, дрыжáць, калацíцца
– n. дры́жыкі *pl.*, дрыгóтка *f.*

**shuffle** [ˈʃʌfəl] – v.i. 1. шóргаць нагáмі. 2. ледзь цягáць (*нóгі*). 3. тасавáць (*кáрты*) 4. сóўгаць, перакладáць, перастаўля́ць: ***to shuffle a stack of papers*** перакладáць стос папéры зь мéсца на мéсца. 5. віля́ць, хітры́ць

– n. 1. шо́рганьне (*нага́мі*); цяга́ньне (*ног*). 2. та́нец з шо́рганьнем ног. 3. тасава́ньне (*ка́ртаў*). 4. віля́ньне; падтасо́ўка (*фа́ктаў*)

• ***shuffle off*** а) пазбы́цца не́чага. б) скі́нуць. в) адыйсьці́

**shun** [ʃʌn] v.i. уніка́ць, пазьбяга́ць *чаго́*

**shunt** [ʃʌnt] – v.t. 1. перавóдзіць (*цягні́к*) на запасны́ шлях; перамяшча́ць, манэўрава́ць на чыгу́нцы. 2. Figur. збóчваць, сыхóдзіць з дарóгі. 3. Electr. адгалінóўваць (*то́к*).

– n. 1. чыгу́начная стрэ́лка *f.* 2. Electr. адгалінава́ньне то́ку, шунт -у *m.*

**shut** [ʃʌt] **shut, shutting,** v.t. 1. зачыня́ць: ***to shut the door*** зачыні́ць дзьве́ры; ***to shut the eyes*** заплю́шчыць во́чы. 2. замыка́ць: ***to shut in prison*** пасадзі́ць у турму́

– adj. замкнёны, замкну́ты; зачы́нены

• ***shut down*** а) зачыні́ць (*фа́брыку*), спыні́ць часо́ва (*пра́цу*). б) зачыня́ць, ліквідава́ць

• ***shut in*** а) замкну́ць (*у пако́і*). б) абгарадзі́ць

• ***shut off*** а) вы́лучыць (*эле́ктрыку, газ*). б) зачыні́ць (*ваду́, даро́гу*)

• ***shut out*** не ўпушча́ць

• ***shut up*** а) зачыня́ць, замыка́ць (*дзьве́ры й во́кны*). б) Informal застáвіць змо́ўкнуць. в) замкну́ць (*арыштава́нага*)

**shutter** [ˈʃʌtər] – n. 1. аканíца *f.*, жалюзí, *indecl.* 2. за́саўка *f.* (*на дзьвяра́х*); за́сланка *f.* (*у пе́чы*). 3. затво́р -а *m.* (*фотааб’екты́ва*)

– v.t. зачыня́ць, замыка́ць

**shuttle** [ˈʃʌtəl] n. 1. чаўнlо́к -ака́ *m.* (*у кро́снах*). 2. цягні́к, аўто́бус, самалёт, які́ ча́ста курсу́е: ***shuttle bus*** пры́гарадны аўтабу́с, маршру́тнае таксі́

**shuttle train** пры́гарадны цягні́к

**shy** [ʃaɪ] – adj. 1. нясьме́лы, сарамя́жлівы, сарамлі́вы. 2. баязьлі́вы, палахлі́вы, пужлі́вы: ***A deer is a shy animal*** Казу́ля — пужлі́вая жывёліна. 3. асьцяро́жны, недаве́рлівы. 4. сьці́плы, яко́га ледзь хапа́е: ***We are shy on butter*** У нас не стае́ ма́сла

– v.i. 1. пужа́цца, адско́кваць. 2. уніка́ць

**shyness** [ˈʃaɪnəs] n. 1. сарамя́жлівасьць, сарамлі́васьць *f.*; няўпэ́ўненасьць *f.* 2. палахлі́васьць, пужлі́васьць *f.*

**shyly** [ˈʃaɪli] adv. 1. нясьме́ла, сарамлі́ва. 2. пужлі́ва, палахлі́ва. 3. недаве́рліва; чу́йна

**Siamese** [ˌsaɪəˈmi:z] – adj. сыя́мскі: ***Siamese twins*** сыя́мскія блізьня́ты

– n. 1. сыя́мlец -ца *m.* 2. сыя́мская мо́ва

**Siberian** [saɪˈbɪriən] – adj. сібі́рскі.

– n. сібіра́к -а́ *m.*, сібіра́чка *f.*

**sibilant** [ˈsɪbɪlənt] – adj. шыпя́чы.

– n. шыпя́чы зы́чны: **S *and* sh *are sibilants*** С ды Ш — шыпя́чыя зы́чныя

**sibyl** [ˈsɪbɪl] n. Сыбі́ла, праро́чыца, варажбі́тка *f.*; чараўні́ца *f.*

**Sicilian** [sɪˈsɪliən] – adj. сыцылі́йскі

– n. сыцылі́lец -йца *m.*, сыцылі́йка *f.* 2. сыцылі́йскі дыяле́кт

**sick** [ʃɪk] – adj. 1. нездаро́вы, з слабы́м здаро́ўем; хво́ры. 2. Informal яко́му мо́ташна, мло́сна: ***I feel sick*** мне мо́ташна, мло́сна, нядо́бра. 3. хвараві́ты: ***a sick look*** хво́ры вы́гляд. 4. яко́му абры́дла, надаку́чыла: ***He is sick of school*** Яму́ абры́дла шко́ла. 5. паку́таваць, тужы́ць, ну́дзіцца: ***to be sick at heart*** мо́цна му́чыцца, паку́таваць, тужы́ць, ну́дзіцца. 6. змарне́лы, хвараві́ты. 7. няспра́ўны, пашко́джаны (*карабе́ль*). 8. Figur. нясма́чны; зло́сны, зье́длівы (*пра жарт, гу́мар*)

– n. хво́рыя *pl.*

**sick bay** шпіта́ль на караблі́

**sicken** [ˈsɪkən] v.i. 1. захво́рваць. 2. адчува́ць *або́* выкліка́ць млосьць

**sickening** [ˈsɪkənɪŋ] adj. 1. мло́сны, мо́ташны. 2. агі́дны, пры́кры

**sickle** [ˈsɪkəl] – n. серп сярпа́ *m.*

– v.t. жаць сярпо́м

**sickliness** [ˈsɪklinəs] n. хвараві́тасьць, хі́ласьць *f.*

**sickly** [ˈsɪkli] adj. 1. хваравíты, хíлы. 2. шкóдны, нездарóвы: ***a sick climate*** нездарóвы клíмат. 3. квóлы, слабы́. 4. Figur. хвараблíвы, млóсны: ***sickly sentimentality*** сьлязьлíвая сэнтымэнтáльнасьць

**sickness** [ˈsɪknəs] n. 1. недамагáньне *n.*, хварóба *f.* 2. мóташнасьць, млóснасьць *f.*; ванітавáньне *n.*, ванíты *pl. only*

**side** [saɪd] – n. 1. бок бóка *і* бóку; *pl.* бакí, *радзéй* бóкі: а) ***at the side (of the house)*** збóку (дóма); б) ***from all sides*** з усíх бакóў; в) ***from side to side*** з бóку на бок 2. бок -у *m.*, павéрхня *f.*: ***the sides of a square*** бакí квадрáта; ***Write only on one side of the paper*** Пішы́ тóлькі на адны́м бакý папéры; ***the right (wrong) side of the cloth*** прáвы (лéвы) бок тканíны. 3. чáстка *f.*: ***the east side of a city*** усхóдняя чáстка гóраду. 4. бок -а *m.* (*чáстка цéла чалавéка абó жывёліны*): ***a pain in one's side*** боль у бакý. 5. схон, бок -у *m.*: ***side of a hill*** схóн узгóрка. 6. бéраг ракí. 7. сьцéнка *f.*, борт -а *m.* 8. бок -у *m.* (*у спóрце, спрэ́чцы*): а) ***Both sides are ready for the contest*** Абóдва бакí гатóвыя да спабóрніцтва. б) ***to come over to someone's side*** перайсьцí на нéчый бок. 9. лíнія, радня́ *f.*: ***uncle on my mother's side*** дзя́дзька з бóку мáці
– adj. 1. бакавы́. 2. другарáдны: ***a side issue*** другарáднае пытáньне
• ***by one's side*** пры бóку, блíзка *кагó*
• ***on the side,*** Informal а) у дадáтку да звычáйных абавя́зкаў. б) дадáтак да стрáвы
• ***side by side*** а) пóбач, пóруч, пóплеч. б) рóўны з *чым*
• ***side with*** стая́ць на *чыíм* бакý, далучы́цца да *кагó*
• ***split one's sides*** рваць бакí (*ад сьмéху*)
• ***take sides*** заня́ць пазы́цыю

**side arms** збрóя, нóшаная на бакý (*меч, шáбля, рэвальвэ́р*)

**sideboard** [ˈsaɪdbɔ:rd] n. буфэ́т, сэ́рвант -а *m.*

**sideburns** [ˈsaɪdbɜ:rnz] n., pl. бáкі *pl.*, бакенбáрды *pl.*

**sidecar** [ˈsaɪdkɑ:r] n. бакавы́ прычэ́п (*у матацы́кле*)

**side dish** дадáтак да галóўнае стрáвы

**side effect** пабóчны, ускóсны вы́нік, непажадáная рэáкцыя на лек

**side issue** пабóчнае пытáньне

**side light** 1. бакавóе сьвятлó. 2. нечакáная інфармáцыя. 3. распазнавáльныя агні на сýднах

**sidesaddle** [ˈsaɪdˌsædəl] n. дáмскае сядлó

**sidetrack** [ˈsaɪdtræk] – n. запасны́ шлях
– v.t. 1. перавóдзіць (*цягнíк*) на запасны́ шлях. 2. адця́гваць ад тэ́мы, адця́гваць увáгу

**sidewalk** [ˈsaɪdwɔ:k] n. хóднік, тратуáр -а *m.*

**sideways** [ˈsaɪdweɪz] adv., adj. убок, бóкам; ухíлісты

**siding** [ˈsaɪdɪŋ] n. шалёўка *f.*

**siege** [ˈsi:dʒ] n. аблóга, асáда *f.*
• ***lay siege (to)*** а) аблажы́ць вóйскам, асадзíць (*гóрад, крэ́пасьць*). б) упáрта намагáцца дасягнýць *чагó*
• ***lift a siege*** зьняць аблóгу

**sieve** [sɪv] – n. рэ́шата, сíта *n.*
– v.t. прасявáць, прасéйваць

**sift** [sɪft] v.i. 1. прасявáць, адсéйваць. 2. пасыпáць празь сíта: ***to sift sugar on top of the cake*** пасы́паць цýкрам пірóг. 3. сы́пацца; церушы́цца: ***The snow sifted softly down*** Сьнег мя́кка церушы́ўся на зямлю́. 4. Figur. дакладна разглядáць фáкты, дóвады

**sigh** [saɪ] – v.i. 1. уздыхáць. 2. уздыхáць, сумавáць, тужы́ць: ***She sighed for home and friends*** Янá тужы́ла па дóме і па сябрóх
– v.t. выкáзваць узды́хам
– n. узды́х -у *m.*, уздыхáньне *n.*

**sight** [saɪt] – n. 1. зрок -у *m.* 2. пóзірк -у *m.*: ***love at first sight*** кахáньне зь пéршага пóзірку. 3. пóле зрóку: ***Land was in sight*** Віднéлася сýша; *to*

***lose sight of*** згубíць *кагó-што* з вачэ́й. 4. від -у *m.*, відóвішча *n.*, прыкмéтнасьць *f.*, выдáтная мясьцíна: ***to see the sights of the city*** аглядáць прыкмéтнасьці гóраду. 5. відóвішча *n.*: ***Her clothes were a sight*** Ейная вóпратка былá цэ́лае відóвішча. 6. прыцэ́л -у *m.* 7. пункт глéджаньня, глéдзішча *n.* 8. назірáньне праз тэлескóп

– v.t. 1. бáчыць. 2. назірáць. 3. навóдзіць (*гармáту, інструмэ́нт*)

• ***a sight for sore eyes*** прыéмны від

• ***at first sight*** зь пéршага пóзірку

• ***at sight*** а) ***to read music at sight*** граць зь лістá. б) адрáзу на запатрабавáньне: ***Some banks will cash a check at sight*** Некатóрыя бáнкі вымéньваюць чэ́кі адрáзу на запатрабавáньне

• ***be in sight of*** а) мець у пóлі зрóку. б) быць у пóлі зрóку

• ***catch sight of*** зглéдзець, углéдзець *кагó-што*

• ***know by sight*** вéдаць *кагó* тóлькі з твáру

• ***lose sight of*** забы́цца, занядбáць

• ***on sight*** як тóлькі пабáчыць, на мéсцы

• ***out of sight of*** дзе не відáць, дзе немагчы́ма быць убáчаным

• ***sight unseen*** не пабáчыўшы, не разглéдзеўшы

**sightseeing** [ˈsaɪtˌsiːɪŋ] n. аглядáньне прыкмéтных мясьцíнаў: ***to go sightseeing*** навéдваць цікáвыя мясьцíны

**sightseer** [ˈsaɪtˌsiːər] n. навéднік -а *m.*, навéдніца *f.*, аглядáльнік -а *m.*

**sign** [saɪn] – n. 1. знак -у *m.*: ***The four signs of the arithmetic operations*** Чаты́ры знáкі арытмэты́чных дзéяньняў. 2. знак -у *m.*, азначэ́ньне *n.*: ***A nod is a sign of agreement***Ківóк галавóй ёсьць знáкам згóды; ***We talked to the deaf man by signs*** З глухíм чалавéкам мы гавары́лі пры дапамóзе знáкаў. 3. нáдпіс -у *m.*, шы́льда *f.*, знак -у *m.*: ***The sign reads "Keep off the grass"*** Нáдпіс кáжа: «Не хадзíць па травé». 4. прыкмéта *f.*: ***There are no signs of life about the house*** Кaля́ дóма нямá ніякіх знáкаў жыцьця́. 5. сьлед -у *m.*, *pl.* сьляды́: ***signs of deer*** сьляды́ казýлі. 6. Astron. знак задыяку

– v.t. 1. падпíсваць (*ліст, чэк*). 2. пісáць: ***Sign your initials here*** Напішэ́це тут сваé ініцыя́лы. 3. запíсваць, наймáць: ***to sign a new player*** наня́ць нóвага гульцá, падпісáўшы ýмóву. 4. пакáзваць, азначáць, быць прыкмéтай. 5. давáць знак: ***to sign assent*** давáць знак на згóду. 6. жагнáць, хрысьцíць кры́жам. 7. знáчыць, мéціць, стáвіць мéтку

– v.i. падпíсвацца: ***They signed for three years*** Яны́ падпісáлі на тры гады́ (*кантрáкт, дамóўленасьць*)

• ***sign away*** перадавáць (*маёмасьць, правы́*)

• ***sign in*** падпісáцца аб сваёй прысýтнасьці; зарэгістравáцца

• ***sign off*** канчáць (*радыёперадáчу , працаўладкавáнасьць*)

• ***sign on*** а) прыня́ць прáцу; паступíць на вайскóвую слýжбу, падпісáўшы ýмóву. б) пачынáць радыёперадáчу

**signal** [ˈsɪgnəl] – n. 1. сыгнáл, знак -у *m.*; парóль -ю *m.*: ***A red light is a signal of danger*** Чырвóнае сьвятлó — сыгнáл небясьпéкі

– v. 1. сыгнáліць, давáць знак: ***He signaled the car to stop*** Ён даў знак машы́не спынíцца. 2. азначáць, знáчыць; абвяшчáць, паведамля́ць: ***A bell signals the end of the class period*** Званóк паведамляе канéц лéкцыі

– adj. сыгналізацы́йны

**signal box** сыгнáльная бýдка *абó* скры́нка

**signal fire** сыгнáльны агóнь

**signal flag** сыгнáльны сьцяжóк

**signalize** [ˈsɪgnəlaɪz] v.i. 1. сыгналізавáць; сыгнáліць, паведамля́ць, налáджваць сýвязь пры дапамóзе сыгнá-

лаў. 2. адзначыцца, праслáвіцца: ***The present century has been signalized by many great inventions*** Цяпéрашняе стагóдзьдзе адзнáчанае шматлíкімі вялíкімі вынахóдзтвамі

**signalman** [ˈsɪgnəlmən] n. 1. сыгнáльнік -а *m.*, сыгнáльніца *f.* 2. жаўнéр аддзéлу сýвязі (*у вóйску*), сувязíст -а *m.* 3. стрэ́лачнік -а *m.*

**signatory** [ˈsɪgnətɔ:ri] – n. той, хто падпíсвае (*дакумэ́нт*), сыгнатáр -а *m.*
– adj. які́ падпісáў

**signature** [ˈsɪgnətʃər] n. 1. пóдпіс -у *m.* 2. Mus. ключ -á *m.* 3. Print. a) сыгнатýра *f.* б) áркуш -а *m.* 4. Radio пазыўнáя мэлёдыя

**signboard** [ˈsaɪnbɔ:rd] n. дóшка для абвéстак

**signet** [ˈsɪgnɪt] n. малáя пячáтка *f.*

**signet ring** пярсьцёнак зь пячáткай

**significance** [sɪgˈnɪfɪkəns] n. 1. сэнс -у *m.*, значэ́ньне *n.* 2. вáжнасьць, знáчнасьць *f.*: ***a matter of significance*** вáжная спрáва

**significant** [sɪgˈnɪfɪkənt] adj. 1. знáчны, вáжны: ***March 25, 1918, is a significant date for Belarusians*** 25-га сакавікá 1918 гóду — вáжная дáта для беларýсаў. 2. шматзнáчны: ***a significant smile*** шматзнáчная ўсьмéшка

**signify** [ˈsɪgnɪfaɪ] v., **-fied, -fying** 1. знáчыць, азначáць: ***"Oh!" signifies surprise*** «О!» азначáе зьдзіўлéньне. 2. выкáзваць, давáць знак: ***He signified his consent with a nod*** Ён вы́казаў сваю згóду кіўкóм галавы́. 3. мець вагý *абó* значэ́ньне

**signpost** [ˈsaɪnpoʊst] n. паказáльнік дарóг

**Sikh** [si:k] n. сыкх -а *m.* (*рэлігíйная сэ́кта ў Індыі*)

**silage** [ˈsaɪlɪdʒ] n. сíлас -у *m.*

**silence** [ˈsaɪləns] – n. 1. цішыня́, цíша *f.* 2. маўчáньне *n.*, маўклíвасць *f.* 3. замóўчваньне, затóйваньне *n.*, забыццё *n.*
– v.t. 1. сунімáць гýтаркі, супакóйваць гóман. 2. прымушáць маўчáць. 3. заглушáць, спыня́ць (*варóжы агóнь*)

• ***in silence*** нічóга ня кáжучы, мóўчкі

**silencer** [ˈsaɪlənsər] n. глушы́льнік -а *m.*

**silent** [ˈsaɪlənt] adj. 1. спакóйны, цíхі, бясшýмны. 2. маўклíвы (*пра чалавéка*). 3. бязгýчны, які́ не вымаўля́ецца: ***The "I" in "folk" and "walk" is a silent letter*** Лíтара ***"I"*** у слóвах ***"folk"*** і ***"walk"*** не вымаўля́ецца. 3. які́ замóўчвае, ня згáдвае: ***The report was silent on that point*** У даклáдзе пра гэ́тую спрáву ня згáдвалася

**silently** [ˈsaɪləntli] adv. 1. цíха, мóўчкі. 2. бязгýчна; бясшýмна

**silhouette** [ˌsɪluˈet] n. сылюэ́т -а *m.*

**silica** [ˈsɪlɪkə] n., Min., Chem. крэмяня-зём -у *m.*

**silk** [sɪlk] n. шоўк, ядвáб -у *m.*; шаўкóвае валакнó, шаўкóвыя ніткі, шаўкóвая тканíна

**silken** [ˈsɪlkən] adj. 1. шаўкóвы, ядвáбны: ***a silken dress*** шаўкóвая сукéнка. 2. як шóўк, шаўкавíсты: ***silken hair*** шаўкавíстыя валасы́. 3. лісьлíвы (*гóлас, манéры*)

**silk-stocking** [ˌsɪlkˈstɑ:kɪŋ] – adj. багáты, замóжны; элегáнтны, арыстакратычны: ***silk-stocking area*** гарадзкí квартáл, дзе жывýць багáтыя
– n. элегáнт -а *m.*, элегáнтка *f.*, замóжная асóба

**silkworm** [ˈsɪlkwɜ:rm] n. шаўкапрáд, ядвáбнік -а *m.*

**silky** [ˈsɪlki] adj. 1. шаўкавíсты. 2. шаўкóвы

**sill** [sɪl] n. 1. падваконьне *n.*, падакóннік -а *m.* 2. парóг -а *m.* (*дзьвярэ́й*). 3. ляжáк лежакá *m.*, нíжні брус (*у будынíне*)

**silliness** [ˈsɪlinəs] n. 1. неразýмнасьць, дýрасьць *f.*, дурнóта *f.* 2. дýрасьць *f.*, дурны́, неразýмны ўчы́нак

**silly** [ˈsɪli] adj. дурны́, неразýмны, бессэнсóўны

**silo** [ˈsaɪloʊ] n., pl. **-los** 1. сíласная будынíна, сíласная я́ма. 2. сíлас -у *m.*

**silt** [sɪlt] – n. глей -ю, мул -у *m.*
– v.t. асядáць глéем

**silty** [ˈsɪlti] adj. глéісты, глéйкі

**silver** [ˈsɪlvər] – n. 1. срэ́бра, серабрó *n.* 2. срэ́бныя манэ́ты. 3. сталóвае срэ́бра (*нажы́, відэ́льцы, лы́жкі*)
– adj. 1. срэ́бны, сярэ́браны; серабрóны, пасярэ́браны: ***silver ore*** срэ́бная рудá; ***silver spoon*** срэ́бная лы́жка. 2. серабры́сты, сівы́: ***silver*** or ***silvery hair*** сівы́я валасы́. 3. чы́сты, звóнкі, як срэ́бра
– v.t. серабры́ць (*пакрывáць срэ́брам абó срэ́бнай амальгáмай*)
– v.i. серабры́цца, сівéць (*пра валасы́*)
• ***a silver tongue*** здóльнасьць красамóўства *абó* перакóнваньня
• ***be born with a silver spoon in one's mouth*** нарадзíцца шчасьлíвым

**silverplated** [ˌsɪlvərˈpleɪtɪd] adj. пасярэ́браны, серабрóны

**silversmith** [ˈsɪlvərsmɪθ] n. мáйстар срэ́бных рэ́чаў

**silver thaw** галалёдзіца *f.*

**silverware** [ˈsɪlvərwer] n. вы́рабы з срэ́бра, сталóвае срэ́бра

**silver wedding** срэ́бнае вясéльле

**silvery** [ˈsɪlvəri] adj. 1. серабры́сты: ***silver moonbeams*** серабры́стае мéсячнае сьвятлó. 2. звóнкі, чы́сты (*пра сьмех, гóлас*)

**similar** [ˈsɪmələr] adj. 1. падóбны, амáль такі сáмы. 2. Geom. падóбны: ***similar triangles*** падóбныя трыкýтнікі

**similarity** [ˌsɪməˈlærəti] n., pl. **-ties** падабéнства *n.*, падóбнасьць *f.*

**similitude** [sɪˈmɪlətu:d] n. 1. падабéнства *n.* 2. параўнáньне *n.*

**simmer** [ˈsɪmər] v. 1. закіпáць, кіпéць на малы́м агні́. 2. вары́ць на малы́м агні́. 3. Figur. кіпéць (*ад злóсьці*)
• ***simmer down*** а) супакóіцца, асты́ць ад гнéву. б) вы́кіпець, вы́парыцца

**simoom** [sɪˈmu:m] n. самýм -у *m.* (*гарáчы вéцер у пусты́ні*)

**simple** [ˈsɪmpəl] – adj. 1. лёгкі, няця́жкі: ***a simple problem*** лёгкая задáча. 2. прóсты, нескладáны, не састаўны́: а) ***a simple sentence*** прóсты сказ. б) ***a simple one-celled animal*** прóстая аднаклéтачная жывёліна. 3. чы́сты, шчы́ры: ***My answer is the simple truth*** Мой адкáз — чы́стая прáўда. 4. звычáйны, прóсты: ***simple clothes*** прóстая вóпратка; ***simple people*** прóстыя лю́дзі. 5. натурáльны (*пра павóдзіны, манéры*). 6. прастадýшны, шчы́ры: ***a simple heart*** шчы́рае сэ́рца. 7. тупы́; дурны́, недаразьвíты
– n. 1. прастадýшны, няхíтры чалавéк, прасьця́к -á *m.* 2. нéшта прóстае, нескладáнае

**simple fraction** прóсты дроб

**simple interest** прóсты працэ́нт

**simpleminded** [ˌsɪmpəlˈmaɪndɪd] adj. 1. прóсты, недасьвéдчаны, прасьцéцкі. 2. нéвуцкі, неадукавáны, цёмны; неразýмны; дурны́. 3. прыдýркаваты

**simpleton** [ˈsɪmpəltən] n. прасьця́к -á, прасьцяч|óк -кá *m.*, прасьця́чка *f.*; дýр|ань -ня *m.*

**simplicity** [sɪmˈplɪsəti] n., pl. **-ties** 1. прóстасьць *f.* 2. шчы́расьць, няхíтрасьць, дабрадýшнасьць *f.*

**simplification** [ˌsɪmplɪfɪˈkeɪʃən] n. спрашчэ́ньне *n.*

**simplify** [ˈsɪmpləfaɪ] v., **-fied, -fying** спрашчáць

**simply** [ˈsɪmpli] adv. 1. прóста: ***simply dressed*** прóста апрáнуты. 2. прóста, тóлькі: ***The baby did not simply cry, he yelled*** Дзіця́ ня прóста плáкала, а захóдзілася ад плáчу. 3. па-дурнóму: ***He acted as simply as an idiot*** Ён захóўваўся прóста як ідыёт. 4. абсалю́тна: ***simply perfect*** абсалю́тна дасканáлы

**simulate** [ˈsɪmjəleɪt] – v. 1. прыкíдвацца; удавáць; сымулявáць (*хварóбу*). 2. насьлядóўваць; прыпадабня́цца, прыстасóўвацца: ***Certain insects simulate leaves*** Некатóрыя кузýркі прыстасóўваюцца пад лісты́
– adj. удавáны (*пра хварóбу, добразычлíвасьць*)

**simulation** [ˌsɪmjəˈleɪʃən] n. 1. удавáньне, прыкíдваньне *n.* 2. прыпадабнéньне, насьлядóўваньне *n.*

**simulative** [ˈsɪmjələtɪv] adj. які́ прыкіда́ецца, удае́; сымулю́е

**simultaneity** [ˌsaɪməltəˈni:əti] n. аднача́со́васьць, аднача́снасьць *f.*

**simultaneous** [ˌsaɪməlˈteɪniəs] adj. аднача́со́вы, аднача́сны

**simultaneously** [ˌsaɪməlˈteɪniəsli] adv. аднача́со́ва, аднача́сна

**sin** [sɪn] – n. грэх граху́ *i* грэ́ху *m.*; немара́льны ўчы́нак
– v.i. грашы́ць

**since** [sɪns] – prep. 1. ад: ***I have been here since ten o'clock*** Я тут ужо́ ад 10-ае гадзі́ны. 2. ад, пасьля́: ***We have not seen him since Saturday*** Пасьля́ субо́ты мы яго́ ня ба́чылі
– conj. 1. ад таго́, як; пасьля́ таго́, як: а) ***He has never written since he left*** Ён ні ра́зу не напіса́ў ад таго́ ча́су, як вы́ехаў. б) ***She has worked hard since she left school*** Яна́ ця́жка працава́ла пасьля́ таго́, як кі́нула шко́лу. 2. пако́лькі; таму́ што: ***Since you feel tired, you should rest*** Ты чу́ешся змучаным, таму табе́ трэ́ба адпачы́ць
– adv. 1. ад таго́ ча́су (*i дагэ́туль*): ***He got sick last Monday and has been in bed ever since*** Ён захварэ́ў у мі́нулы панядзе́лак і ад таго́ ча́су ляжы́ць у ло́жку. 2. пе́рад тым: ***a few days since*** не́калькі дзён таму́; ***long since*** даўно́. 4. пасьля́: ***At first he refused the job, but has since accepted it*** Сьпярша́ ён адмо́віўся ад працы, адна́к пасьля́ прыня́ў

**sincere** [sɪnˈsɪr] adj. шчы́ры

**sincerely** [sɪnˈsɪrli] adv. шчы́ра: ***yours sincerely*** з паша́най да Вас (*у лісьцэ́*)

**sincerity** [sɪnˈserəti] n., pl. **-ties** шчы́расьць *f.*

**sine** [saɪn] n., Math. сынус -а *m.*

**sinew** [ˈsɪnju:] n. 1. сухажы́льле *n.* 2. Figur. моц, сі́ла *f.*, энэ́ргія *f.*; крыні́ца сі́лы

**sinewy** [ˈsɪnju:i] adv. 1. му́скулісты. 2. мо́цны, сі́льны

**sinful** [ˈsɪnfəl] adj. грэ́шны; распу́сны, немара́льны

**sing** [sɪŋ] – v., **sang** or **sung, sung, singing** 1. пяя́ць, сьпява́ць. 2. калыха́ць, усыпля́ць (*дзіця́тка сьпе́вам*). 3. апява́ць: ***Homer sang of Troy*** Гамэ́р апява́ў Тро́ю. 4. завыва́ць (*пра ве́цер*). 5. зьвіне́ць; сьвіста́ць: ***A bad cold made his ears sing*** Ад вялі́кай засту́ды ў яго́ зьвіне́ла ў вуша́х; ***The teakettle sang*** Засьвіста́ў ча́йнік
– n. 1. шум (*у вуша́х*); сьвіст -у *m.*: ***the sing of a bullet in flight*** сьвіст ку́лі ў лёце. 2. пяя́ньне *n.*, сьпеў -ву *m.*, сьпе́ўка *f.*

**singe** [sɪndʒ] – v.t. 1. абсма́льваць. 2. Informal псава́ць, пля́міць (*рэпута́цыю*)
– n. апёк -у *m.*

**singer** [ˈsɪŋər] n. сьпява́к сьпевака́ *m.*, сьпява́чка *f.*, пяю́н -а́ *m.*

**singing** [ˈsɪŋɪŋ] – n. 1. сьпеў -ву *m.*, пяя́ньне *n.* 2. звон у вуша́х
– adj. сьпе́ўны; пяву́чы, пяю́чы

**single** [ˈsɪŋgəl] – adj. 1. адзі́ны; адзіно́чны: ***There is not a single one left*** Не застало́ся ніво́днага; ***a single shot*** адзіно́чны стрэл; ***a single bed*** аднаспа́льны ло́жак. 2. сам, адзін, адзіно́кі: ***He came to the party single*** На вечары́нку ён прыйшо́ў адзі́н. 3. а) нежана́ты: ***a single man*** нежана́ты мужчы́на. б) незаму́жняя: ***a single girl*** незаму́жняя дзяўчы́на. 4. сам-на́сам: ***single combat*** адзінабо́рства. 5. асаблі́вы, выклю́чны: ***She showed single devotion to her work*** Яна́ вы́явіла асаблі́вую руплі́васьць да пра́цы
– v.t. вылуча́ць, выбіра́ць

**single-breasted** [ˌsɪŋgəlˈbrestɪd] adj. аднабо́ртны (*пра паліто́, гарніту́р*)

**single file** адзін за адны́м: ***in single file*** гу́жам, цу́гам (*ісьці́*)

**single-handed** [ˌsɪŋgəlˈhændɪd] adj. 1. аднаасо́бны. 2. аднару́кі

**singly** [ˈsɪŋgli] adv. 1. індывідуа́льна, асо́бна, паасо́бку. 2. сваймі́ сі́ламі, адзіно́чна

**singular** [ˈsɪŋgjələr] – adj. 1. надзвыча́йны, незвыча́йны, выклю́чны: ***a story of singular interest to boys*** апавя-

да́ньне надзвыча́йнае ціка́васьці для хлапцо́ў. 2. дзіўны́, своеасаблі́вы, спэцыфі́чны; ***a singular matter*** своеасаблі́вая спра́ва. 3. адзі́ны, адзі́нкавы: ***an event singular in history*** падзе́я адзі́нкавая ў гісто́рыі. 4. Gram. адзіно́чны (*пра лік*)
– n. 1. адзіно́чны лік. 2. сло́ва ў адзіно́чным ліку

**singularity** [ˌsɪŋgjəˈlærəti] n., pl. **-ties** асаблі́васьць, дзіўнасьць, незвыча́йнасьць *f.*

**sinister** [ˈsɪnɪstər] adj. 1. злаве́сны, ву́сьцішны; пагражальны: ***a sinister look*** пагража́льны по́зірк. 2. злы, благі́. 3. левабако́вы, ле́вы

**sink** [sɪŋk] – v., **sank** or **sunk, sunk** or **sunken, sinking**
– v.i. 1. тану́ць, тапі́цца: ***The ship is sinking*** Карабе́ль то́не. 2. зьніжа́цца; асо́ўвацца, апуска́цца: ***The sun is sinking*** Со́нца захо́дзіць; ***She sank to the floor in a faint*** Яна́, абамле́ўшы, асу́нулася на падло́гу. 3. зьмянша́цца, слабе́ць: ***The wind has sunk down*** Ве́цер сьці́шыўся. 4. запада́ць у па́мяць, до́бра запаміна́цца, засво́йвацца: ***Let the lesson sink into your mind*** До́бра засво́й ле́кцыю. 5. упада́ць: ***to sink into poverty*** упада́ць у бе́днасьць. 6. угруза́ць, вя́знуць: ***to sink in the snow*** угру́знуць у сьне́зе. 7. занепада́ць: ***His spirits sank*** Ён заняпа́ў ду́хам. 8. запада́ць, ува́львацца: ***The sick man's cheeks have sunk*** У хво́рага запа́лі шчо́кі
– v.t. 1. паніжа́ць (*узро́вень вады́*). 2. затапля́ць: ***to sink a ship*** затапі́ць карабе́ль. 3. зьніжа́ць: ***Sink your voice to a whisper*** Зьнізь го́лас да шэ́пту. 4. капа́ць: ***The men are sinking a well*** Мужчы́ны капа́юць сту́дню. 5. замо́ўчваь, наўмы́сна хава́ць: ***to sink evidence*** замаўча́ць до́вад
– n. 1. мы́цельнік, умыва́льнік -а *m.*, кухо́нная ра́кавіна. 2. сьцёк -у *m.* 3. Figur. прыто́н -у *m.* 4. нізі́на *f.*
• ***sink or swim*** пан або́ прапа́ў

**sinker** [ˈsɪŋkər] n. грузі́ла *n.*

**sinking fund** амартызацы́йны фонд, фонд пагашэ́ньня

**sinless** [ˈsɪnləs] adj. бязгрэ́шны

**sinner** [ˈsɪnər] n. грэ́шнік -а *m.*, грэ́шніца *f.*

**sinuous** [ˈsɪnjuəs] adj. 1. зьвілі́сты, заві́лісты (*як рух вужа́кі*). 2. крывы́, пакруча́сты. 3. Figur. несумле́нны, немара́льны

**sinus** [ˈsaɪnəs] n., Anat. сы́нус -а *m.*

**sip** [sɪp] – v.t. **(-pp-)** сёрбаць, піць глытка́мі
– n. глыт|о́к -ка́ *m.*

**siphon** [ˈsaɪfən] – n. сыфо́н -у *m.*
– v.t. выпампо́ўваць сыфо́нам

**sir** [sɜːr] n. 1. сэр -а *m.*; спада́р -а́ *m.*: ***Excuse me, sir*** Вы́бачце, спада́ру. 2. *ты́тул ры́цара або́ баранэ́та*

**siren** [ˈsaɪrən] n. сырэ́на *f.*

**sirloin** [ˈsɜːrlɔɪn] n. філе́й -ю *m.* (*валаві́на*)

**sissy** [ˈsɪsi] n., pl. **-sies** 1. Informal расьпе́шчаны, плаксі́вы хлапе́ц. 2. сястры́чка *f.*

**sister** [ˈsɪstər] n. 1. сястра́ *f.*; сястры́чка, сястры́ца *f.*: ***a half sister*** зво́дная сястра́. 2. мана́шка *f.* 3. мэдыцы́нская *або́* міласэ́рная сястра́, сядзе́лка *m.*

**sisterhood** [ˈsɪstərhʊd] n. 1. ро́дная су́вязь сясьцёр. 2. сястры́нтва *n.*

**sister-in-law** [ˈsɪstərɪnˌlɔː] n., **sisters-in-law** швагéрка *f.* (*жо́нчына сястра́*); ятро́ўка *f.* (*жо́нка аднаго́ бра́та жо́нцы друго́га бра́та*); залві́ца, зало́ўка *f.* (*му́жава сястра́*);

**sisterly** [ˈsɪstərli] adj. сястры́нскі; сястры́н

**Sisyphean** [sɪsɪˈfiːən] adj. 1. Сызы́фаў (*пра́ца*). 2. Figur. дарэ́мны, ма́рны, бескары́сны; цяжкі́ і бяско́нцы

**sit** [sɪt] **sat,** – v.i. 1. сядзе́ць: ***She sat in a chair*** Яна́ сядзе́ла на крэ́сьле. 2. стая́ць: ***The clock has sat on that shelf for years*** Гадзі́ньнік стая́ў на гэ́най палі́цы гада́мі. 3. засяда́ць: ***The court sits next month*** Суд бу́дзе засяда́ць у насту́пным ме́сяцы; ***to sit***

***in Parliament*** быць паслóм, засядáць у парлямэнце. 4. пазавáць: ***to sit for a portrait*** пазавáць для партрэ́та. 5. сядзéць на я́йках (*пра птýшку*). 6. пасавáць, ляжáць: ***The coat sits well*** Пінжáк дóбра ляжы́ць. 7. даглядáць за дзéцьмі ў адсýтнасьці бацькóў
– v.t. 1. садзíць: ***The woman sat the little boy in his chair*** Жанчы́на пасадзíла хлóпчыка ў крэ́селца. 2. сядлáць: ***He sat his horse well*** Ён дóбра трымáўся на канí
• ***sit down*** сядáць,
• ***sit in*** браць удзéл (*у гульнí, канфэрэ́нцыі*), прысýтнічаць
• ***sit on*** or ***upon*** быць ся́брам камíсіі, прысяжны́м судзьдзёю
• ***sit out*** а) высéджваць. б) Informal вычэ́кваць
• ***sit through*** вы́седзець
• ***sit tight*** вычэ́кваць, не саступáць
• ***sit up*** а) прыўзьня́цца, сéсьці. б) засéджвацца, ня клáсьціся спаць
• ***sit well*** быць да твáру, пасавáць

**site** [saɪt] – n. 1. мéсца *n.*, разьмяшчэ́ньне *n.*: ***This home has one of the best sites in town*** Гэ́ты дом знахóдзіцца ў адны́м з найлéпшых мéсцаў гóраду. 2. мéсца, пляц для пабудóвы: ***site of an ancient town*** гарадзíшча *n.* 3. Comput. сайт -у *m.*
– v.t. 1. выбірáць мéсца. 2. стáвіць, будавáць, зьмяшчáць: ***They sited the new building on a hill*** Яны́ пастáвілі нóвую буды́ніну на ўзгóрку

**sit-in** сядзя́чы страйк; акупацы́йны страйк

**sitter** [ˈsɪtər] n. 1. ня́нька, сядзéлка *f.* 2. квактýха *f.*

**sitting** [ˈsɪtɪŋ] n. 1. сядзéньне *n.* 2. сэ́сія (*парлямэ́нту, сýду*). 3. сэáнс -у *m.* 4. высéджваньне *n.* (*птушаня́т*)

**sitting room** гасьцёўня *f.*

**situated** [ˈsɪtʃueɪtəd] adj. разьмéшчаны

**situation** [ˌsɪtʃuˈeɪʃən] n. 1. мéсцазнахóджаньне, мéсца *n.*: ***Choose an attractive spot for our camp*** Вы́берце прыгóжае мéсца для нáшага ля́геру. 2. абстáвіны *pl. only*, сытуáцыя *f.* 3. станóвішча *n.*, прáца *f.*

**six** [sɪks] n., adj. шэсьць; шасьцёх; шасьцёра

**sixfold** [ˈsɪksfoʊld] – adj. 1. шасьціразóвы. 2. які́ мáе шэсьць чáстак
– adv. у шэсьць разóў больш, шасьціразóва

**six hundred** шэсьцьсóт

**six-hundredth** шасьцісóты

**six-pack** [ˈsɪkspæk] n. блёк -а *m.*, упакóўка *f.* (*шэсьць бляшáнак або бутэ́лек, напр. пíва*)

**sixteen** [ˌsɪkˈstiːn] n. шаснáццаць

**sixteenth** [ˌsɪkˈstiːnθ] adj. 1. шаснáццаты. 2. аднá шаснáццатая чáстка; шаснáццатка *f.*

**sixteenth note** Mus. шаснáццатая *f.*

**sixth** [sɪksθ] – adj. шóсты
– n. шóстая чáстка

**sixthly** [ˈsɪksθli] adv. па-шóстае, на шóстым мéсцы

**sixth sense** шóстае пачуцьцё, інтуíцыя *f.*

**sixtieth** [ˈsɪkstiəθ] – adj. шасьцідзяся́ты: ***sixtieth anniversary*** шасьцідзесяцігадóвы юбілéй
– n. аднá шасьцідзяся́тая чáстка

**six times** шэсьць разóў, шэсьць у *кóлькі*, шэсьць па *кóлькі*, шасьцьмá: ***six times six*** шэсьць у шэсьць, шэсьць па шэ́сьць (*у мнóжаньні*)

**sixty** [ˈsɪksti] n., pl. **-ties** шэсьцьдзесят: ***the sixties*** шасьцідзяся́тыя гады́; ***sixty-year-old man*** шасьцідзесяцігадóвы чалавéк

**size** [saɪz] – n. 1. памéр -у *m.*, велічыня́ *f.*; аб'ём -у *m.* 2. нýмар, памéр -у *m.*: ***His shoes are size 10*** Чаравíкі ў ягó дзяся́тага памéру
– v.t. сартавáць павóдле велічынí
• ***cut down to size*** а) падраўня́ць. б) падрэ́заць кры́лы
• ***of a size*** такóе сáмае велічынí *або* памéру
• ***size up,*** Informal аценíць, даць ацэ́нку, склáсьці дýмку

**sizeable** [ˈsaɪzəbəl] adj. дóсыць вялíкі, абшы́рны

**sizzle** [ˈsɪzəl] v. 1. сквірчэ́ць (*пра скваранае*). 2. Informal кіпе́ць, кіпяці́цца: ***to sizzle with anger*** кіпе́ць ад зло́сьці

**skald** [skɔ:ld] n. скальд -а *m.* (*скандына́ўскі паэ́т-пясьня́р*)

**skate I** [skeɪt] – n. 1.ка|нёк -нька́ *m.*, канькі́ *pl.* 2. ро́лік -а *m.*, ро́лікі *pl.*
– v.i. ко́ўзацца (*на канька́х*); е́зьдзіць (*на ро́ліках*)

**skate II** [skeɪt] n. скат -а *m.* (*ры́ба*)

**skater** [ˈskeɪtər] n. канькабе́ж|ац -ца *m.*

**skating rink** кат|о́к -ка *m.*, ко́ўзанка *f.*

**skein** [skeɪn] n. 1. мат|о́к -ка́ *m.* (*ні́так*), скру́т|ак -ка *m.* 2. чарада́ (*дзі́кіх гусе́й або́ ка́чак у палёце*)

**skeleton** [ˈskelɪtən] – n. 1. а) шкіле́т -а *m.* б) ра́кавінка (*малю́ска*). 2. шкіле́т -а *m.* (*пра худо́га чалаве́ка*). 3. карка́с -а *m.*: ***the steel skeleton of a building*** стальны́ карка́с буды́ніны. 4. на́кід, плян -у *m.*
– adj. 1. як шкіле́т, шкіле́тны. 2. Figur. паме́ншаны, частко́вы: ***a skeleton crew*** скаро́чаны экіпа́ж
• ***skeleton in the closet*** схава́ныя грахі́ (*кампрама́т*); ганебны сяме́йны сакрэ́т

**skeleton key** адмы́чка *f.*

**skeptic** [ˈskeptɪk] adj., *гл.* **sceptic**

**skeptical** [ˈskeptɪkəl] adj., *гл.* **sceptical**

**sketch** [sketʃ] – n. 1. эскі́з, на́кід -у *m.*, замалёўка (*для карці́ны*), мадэ́ль (*во́прáткі*). 2. на́кід, плян літарату́рнага тво́ру. 3. Theatr. скетч -у *m.*
– v.t. маля́ваць эскі́зы, рабі́ць на́кіды

**sketchbook** [ˈsketʃbʊk] n. альбо́м для замалёвак

**sketchy** [ˈsketʃi] adj. 1. эскі́зны. 2. Figur. няпо́ўны; невялі́кі, лёгкі; недасканалы: ***a sketchy meal*** няпо́ўны абе́д, лёгкая перакýска

**skew** [skju:] – adj. 1. касы́, ко́сы. 2. несымэтры́чны
– n. нахі́л, схіл -у *m.*, пака́тасьць *f.*: ***on the skew*** ко́са. 2. скрыўле́ньне *n.*
– v.t. 1. ско́шваць, рабі́ць касы́м, крыві́ць. 2. зваро́чваць убо́к. 3. перакру́чваць
• ***on the skew*** наўско́с

**ski** [ski:] – n. **skis** or **ski** лы́жа *f.*; лы́жы *pl.*, і́рта *f.*, і́рты *pl.*
– v.i. е́зьдзіць на лы́жах

**skid** [skɪd] – v. 1. зано́сіць убо́к; ко́ўзацца: ***The car skidded on the slippery road*** Самахо́д зане́сла на ко́ўзкай даро́зе. 2. буксава́ць
– n. 1. буксава́ньне *n.*, зано́с -у *m.* 2. падкалёсная кало́дка

**skidoo** [skɪˈdu:] n. малы́ сьнегахо́д

**skier** [ˈski:ər] n. лы́жнік -а *m.*, лы́жніца *f.*

**skilful** or **skillful** [ˈskɪlfəl] adj. майстэ́рскі, уме́лы

**skilfully** or **skillfully** [ˈskɪlfəli] adv. па-майстэ́рску, уме́ла

**skill** [skɪl] n. 1. спра́ўнасьць, спры́тнасьць *f.*: ***with skill*** спра́ўна, спры́тна. 2. уме́льства, майстро́ўства, майстэ́рства *n.*, спрыт -у *m.*; кваліфіка́цыя *f.*, на́вык -у *m.*: ***It takes skill to tune a piano*** Патрэ́бнае ўме́льства, каб нала́дзіць піяні́на; ***He has no skills although he is interested in carpentry*** Ён ня ма́е ніякіх кваліфіка́цыяў, хоць ціка́віцца сталя́ркай

**skilled** [skɪld] adj. 1. наву́чаны, дасьве́дчаны; кваліфікава́ны: ***a skilled workman*** кваліфікава́ны рабо́тнік. 2. які́ вымага́е падрыхто́ўкі, кваліфіка́цыі: ***Bricklaying is skilled labor*** Муля́рства — рабо́та, яка́я вымага́е падрыхто́ўкі

**skillet** [ˈskɪlɪt] n. 1. патэ́льня, скаварада́ *f.* 2. кастру́ля з даўго́й ру́чкай

**skim** [skɪm] – v.t. 1. здыма́ць сьмята́ну з малака́; здыма́ць шумаві́ньне з су́пу. 2. сьлізга́ць: ***The pebble I threw skimmed the little waves*** Каме́нчык, які́ я кі́нуў, сьлізга́ў па малы́х хва́лях. 3. прачы́тваць збо́льшага
– v.i. 1. пла́ўна праплыва́ць, пралята́ць, прано́сіцца. 2. пакрыва́цца то́нкім пласто́м (*лёду, шумаві́ньня*)
– n. 1. зьня́тая сьмята́на; шумаві́ньне *n.* 2. Sl. ко́лькасьць скра́дзенага

**skimmer** [ˈskɪmər] n. шумо́ўка *f.*

**skim milk** зьня́тае малако́; пераго́н -у *m.*

**skimp** [skɪmp] v. 1. скупíцца. 2. ашчаджáць: ***She had to skimp to send her son to college*** Янá мýсіла ашчаджáць, каб магчы́ паслáць сы́на ў інстытýт. 3. рабíць недаклáдна, недасканáла

**skimpy** [skɪmpi] adj. 1. карóткі, малы́, мізэ́рны, недастаткóвы. 2. ашчáдны, скупы́

**skin** [skɪn] – n. 1. а) скýра *f.* б) вы́рабленая шкýра. 2. скýрка, абалóнка *f.* а) ад пладóў. б) лупíна *f.*, шалупíньне *n.* 3. шкýра *f.* 4. Sl. махляр -á, ашукáн|ец -ца *m.*; скнáр|а, жмíнд|а -ы *m. & f.* 5. Sl. даля́р -а *m.*

– v.t. 1. а) абдзэ́рці скýру: ***Jack skinned his knee when he fell*** Янка ўпáў і абдзёр калéна. б) здымáць, зьдзірáць скýру. 2. скідáць скýру (*пра вужáкаў*). 3. Sl. лупíць скýру, браць празьмéрую плáту

• ***by the skin of one's teeth*** вéльмі блíзка, амáль што, лéдзьве што

• ***get under one's skin*** а) назаля́ць, дакучáць; залéзьці за скýру. б) мóцна ўплывáць на *кагó*

• ***have a thick skin*** быць таўстаскýрым, нячýлым

• ***in*** or ***with a whole skin*** цэ́лы і здарóвы

• ***jump out of one's skin*** са скýры вылáзіць (*ад рáдасьці, захаплéньня*)

• ***save one's skin*** выратавáць сваю́ скýру (*уцячы́ цэ́лым*)

• ***skin alive***, Sl. а) мýчыць, мóцна біць. б) вóстра крытыкавáць. в) перамагчы́, разьбíць дашчэ́нту

• ***under the skin*** у аснóўным; не зважáючы на вóнкавыя адрóзьненьні

**skindiver** [ˈskɪndaɪvər] n. вадалáз -а *m.*

**skinflint** [ˈskɪnflɪnt] n. скнáр|а -ы *m.*

**skinner** [ˈskɪnər] n. 1. скурадзёр, скуралýп -а *m.* 2. скýрнік -а *m.*

**skinny** [ˈskɪni] adj. вéльмі тóнкі, вéльмі худы́, скýра ды кóсьці

**skin-tight** [ˈskɪntaɪt] adj. які́ шчы́льна прылягáе да фігýры

**skip** [skɪp] – v.i. **(-pp-)** 1. скакáць, лёгка падскóкваць. 2. гóйсаць, гайсáць, пераскóкваць: ***The girls skipped rope*** Дзяўчáткі скакáлі праз вярóўку. 3. прамінáць, прапускáць, рабíць прóпуск: ***He skips as he reads*** Ён рóбіць прóпускі, калí чытáе; ***to skip a grade*** пераскóчыць кля́су; Informal: ***to skip classes*** прапушчáць лéкцыі

– n. скóк, падскóк -у *m.*

**skirmish** [ˈskɜ:rmɪʃ] – n. 1. малáя збрóйная суты́чка, перастрэ́лка. 2. спрэ́чка, свáрка, ля́янка *f.*

– v.i. 1. вéсьці суты́чкі, ваявáць. 2. спрачáцца, сварьíцца, ля́яцца

**skirt** [skɜ:rt] – n. 1. спаднíца *f.* 2. мяжá *f.*, ускрáй -ю *m.*: ***on the skirts of the wood*** на ўзьлéсьсі

– v.i. 1. межавáцца, быць на ўскрáі. 2. быць на мяжы́, уздóўж мяжы́, ускрáй

– v.t. абыхóдзіць *абó* аб'язджáць бóкам абó ўскрáй: ***The boys skirted the forest*** Хлапцы́ абыйшлí бóкам лес

**skit** [skɪt] n. скетч -у *m.*

**skulk** [skʌlk] v.i. 1. хавáцца, ухіля́цца (*ад адкáзнасьці, прáцы*). 2. крáсьціся, прабірáцца ўпóтай

**skull** [skʌl] n. 1. чэ́рап -а *m.* 2. галавá *f.*

**skull and crossbones** чэ́рап і кóсьці (*эмблéма сьмéрці абó знак перасьцярóгі*)

**skullcap** [ˈskʌlkæp] n. 1. хáтняя шáпачка. 2. скуфéйка *f.* (*у сьвятарóў*). 3. ярмóлка *f.*; цюбяцéйка *f.* 4. чэ́рапная чáша

**skunk** [skʌŋk] n. 1. скунс -а *m.*, шашл|óк -кá *m.*, сьмярдзю́чка *f.*, 2. фýтра са скýнса. 3. Informal падлю́г|а -і *m. & f.*, нягóднік -а *m.*

**sky** [skaɪ] – n., pl. **skies.** 1. нéба *n.*: ***a blue sky*** сíняе нéба; ***a cloudy sky*** хмáрнае нéба. 2. нябёсы *pl. only.* 3. надвóр'е *n.*, клíмат -у *m.*: ***under a warmer sky*** у цяплéйшым клíмаце, пры цяплéйшым надвóр'і

– v.i. падбівáць, кíдаць *абó* паднімáць высóка ўгóру

• ***out of a clear (blue) sky*** рáптам, зьнянáцку, нечакáна, як гром зь я́снага нéба

• ***praise to the skies*** узно́сіць, усхваля́ць да не́ба
• ***the sky is the limit*** няма́ ме́жаў
**sky-blue** я́сна-блакі́тны ко́лер
**sky-high** [ˌskaɪˈhaɪ] – adv. ве́льмі высо́ка
– adj. ве́льмі высо́кі, да не́ба
**skyjack** [ˈskaɪdʒæk] n. паве́транае пірацтва
**skylab** [ˈskaɪlæb] n. арбіта́льная ста́нцыя
**skylark** [ˈskaɪlɑ:rk] – n. жаўру́к -а́ *m.*, жа́варан|ак -ка *m.*
– v.i. свавóліць, праку́дзіць, блазнава́ць
**skylight** [ˈskaɪlaɪt] n. вакно́ ў страсе́ *або́* сто́лі
**skyline** [ˈskaɪlaɪn] n. 1. гарызо́нт -у *m.* 2. небасхіл -у, небакра́|й -ю *m.*
**sky marshal** аге́нт слу́жбы бясьпе́кі на самалёце
**skyscraper** [ˈskaɪˌskreɪpər] n. небаскро́б, небася́г, хмарачо́с, хмарадзёр -а *m.*
**slab** [slæb] – n. 1. а) пліта́ *f.* (*з ка́меню, дрэ́ва або́ мэта́лу*). б) скрылі|ь -я́ *m.*, кава́л|ак - ка *m.* (*сы́ру, мя́са*). 2. апо́л|ак -ка *m.*
– v.t. 1. выраза́ць плі́ты. 2. абпілóўваць апо́лкі. 3. выклада́ць каме́нымі плі́тамі
**slack I** [slæk] – adj. 1. сла́бкі, нямо́цна нацягнуты (*пра вяро́ўку, ле́йцы*). 2. нядба́лы: ***a slack housekeeper*** нядба́лая гаспады́ня. 3. паво́льны: ***at a slack pace*** паво́льнай хадо́ю. 4. вя́лы (*пра га́ндаль, ры́нак*)
– n. 1. засто́|й -ю *m.* (*у га́ндлі*); ці́хі пэры́яд, заці́шша *n.*, час бязьдзе́йнасьці. 2. час памі́ж прыплы́вам і адплы́вам (*мо́ра*)
– v.t. 1. паслабля́ць. 2. гасі́ць (*ва́пну*)
– adv. 1. сла́бка. 2. паво́лі, мару́дна
• ***slack off*** паслабля́ць, аслабля́ць (*запа́л, стара́ннасьць*)
• ***slack up*** запаво́ліць (*ход машы́ны, цягні́ка́, бег*)
**slack II** [slæk] n. ву́гальны шлак
**slacken** [ˈslækən] – v.t. 1. аслабля́ць (*нама́гаьні пры пра́цы*). 2. паслабля́ць (*каню́ папру́гі*)
– v.i. 1. паслабля́цца. 2. запаво́львацца: ***Work slackens on a hot day*** Пра́ца запаво́львaецца ў гара́чы дзень
**slacker** [ˈslækər] n., Informal лайда́к -а́, гульта́|й -я́ *m.*; той, хто ўхіля́ецца ад абавя́зкаў
**slacks** [slæks] n., pl. спарто́выя штаны́
**slag** [slæg] n. v., **(-gg-)** ператтвара́ці|ь (-ца) ў шлак
**slam I** [slæm] **(-mm-)** – v.t. 1. ля́пaць, гру́каць, бра́згаць: ***to slam the door*** бра́знуць дзьвяры́ма. 2. Informal разно́сіць, мо́цна крытыкава́ць
– v.i. 1. бра́згаць: ***The door slammed*** Дзьве́ры бра́знулі. 2. мо́цна сутыка́цца, сту́кацца
– n. 1. а) ля́паньне, гру́каньне, бра́зганьне, пля́сканьне *n.* б) гру́кат, бра́згат -у *m.*: ***John threw his books down with a slam*** Янка шпурну́ў сваé кні́гі з гру́катам. 2. мо́цны ўдар. 3. Informal зьнішча́льная кры́тыка
**slam II** [slæm] n. (*у ка́ртах*) шлем -у *m.*
**slammer** [ˈslæmər] n., Sl. турма́ *f.*
**slander** [ˈslændər] – n. 1. Law ілжы́вае абвінава́чаньне; паклёп -у *m.* 2. нагаво́ры *pl. only,* паклёпніцтва *n.*
– v.i. 1. нагаво́рваць, займа́цца нагаво́рамі, паклёпнічаць
– v.t. абылга́ць, абгавары́ць
**slanderer** [ˈslændərər] n. паклёпнік -а *m.*, паклёпніца *f.*
**slanderous** [ˈslændərəs] adj. паклёпніцкі, абра́зьлівы
**slang** [slæŋ] – n. 1. размо́ўная гу́тарка. 2. слэнг, жарго́н -у *m.*
– v. ля́яць, зьневажа́ць: ***They slanged away at each other*** Яны́ ла́яліся адзі́н на аднаго́
**slangy** [ˈslæŋi] adj. жарго́нны
**slant** [slænt] – v.i. 1. нахіля́цца, схіля́цца: ***Most handwriting slants to the right*** Лі́тары на пісьме́ перава́жна схіля́юцца напра́ва. 2. насьвятля́ць тэндэнцы́йна
– n. 1. спад, схіл -у *m.*: ***a sharp slant*** стро́мкі схіл. 2. нахі́л -у *m.*, схі́льнасьць *f.* 3. Informal тэндэ́нцыя *f.*

– adj. пахілы, пакáты

• ***on the slant*** наўскóс; кóса

**slantwise** [ˈslæntwaɪz] adv. пахíла, пакáта; наўскасяк, наўскóс

**slap** [slæp] – n. 1. пляскáч плескачá *m.* 2. стрóгая вымóва; рэ́зкая адмóва

– v.t. **(-pp-)** 1. ляпаць, шлёпаць, пляскаць. 2. плёскаць: ***waves slapping against the dock*** хвáлі плёскаюць аб док

– adv., Informal 1. прóста; рáптам: ***to run slap into the wall*** урэ́зацца прóста ў сьцяну́

• ***slap in the face,*** Informal а) абрáза, зьнявáга *f.* б) аплявýха, пóўха *f.*

• ***slap on the wrist*** лёгкая нагáна

**slash** [slæʃ] – v.t. 1. разразáць, расьсякáць (*мячóм, нажóм*). 2. хвастáць, сьцябáць (*пýгай*). 3. Figur. сурóва *абó* варóжа крытыкавáць. 4. абразáць, зьніжáць (*зарплáту, падáткі*). 5. выразáць (***напр. чáсткі кнíгі***), мóцна зьмяняць

– n. 1. рэ́зкі ўдáр. 2. разрэ́з -у *m.*, рáна *f.* 3. вы́сека, вы́сечка *f.* (*у лéсе*)

**slate** [sleɪt] – n. 1. слáн|ец -ца *m.* 2. грыфэльная дóшка. 3. сьпіс кандыдáтаў

– v.t. 1. крыць слáнцам (***напр.*** *дах*). 2. вóстра крытыкавáць. 3. занóсіць у сьпіс кандыдáтаў

– adj. цёмны сíня-шэ́ры

• ***break the slate*** зьняць кандыдатýру (*на вы́барах*)

• ***wipe the slate clean*** напрáвіць памы́лкі, непаразумéньні

**slaughter** [ˈslɔːtər] – n. 1. забóй -ю *m.*, забівáньне, зарэ́з -у *m.*: ***slaughter of animals for food*** забóй жывёлы на мяса. 2. разьня *f.*

– v.t. 1. рэ́заць, забівáць (***жывёлу на мяса***). 2. мáсава забівáць (***на вайнé, падчáс рэпрэ́сіяў***)

**slaughter house** бóйня *f.*

**Slav** [slɑːv] – n. славянíн -а *m.*

– adj. славянскі

**slave** [sleɪv] – n. 1. нявóльнік -а *m.*, нявóльніца *f.*, раб -á *m.*

– v.i. працавáць, як раб, цяжка працавáць

**slave driver** 1. наглядні к над рабáмі. 2. вéльмі патрабавáльны працадáвец

**slaver I** [ˈslævər] – v. сьлíніць, сьлінявіць

– n. 1. сьлíна *f.* 2. сьлінявасьць *f.*

**slaver II** [ˈsleɪvər] n. 1. гандляр рабáмі. 2. карабéль з рабáмі

**slavery** [ˈsleɪvəri] n. 1. нявóля *f.* 2. нявóльніцтва, рáбства *n.* 3. цяжкáя прáца

**Slavic** [ˈslɑːvɪk] – adj. славянскі

– n. славянская мóва

**slavish** [ˈsleɪvɪʃ] adj. 1. нявóльніцкі. 2. угóдніцкі. 3. Figur. неарыгінáльны, які панявóльніцку пераймáе

**slavishly** [ˈsleɪvɪʃli] adv. па-нявóльніцку, па-рáбску

**Slavonic** [sləˈvɑːnɪk] – adj. славянскі

– n. 1. славянíн -а *m.*, славянка *f.* 2 славянская мóва

**slaw** [slɔː] n. капýсная салáта

**slay** [sleɪ] v.t. **slew, slain** забівáць

**sled** [sled] – n. 1. дзіцячыя сáнкі. 2. сáні, сáнкі *pl. only*

– v.i. **(-dd-)** éзьдзіць у санях, на сáнках

– v.t. вазíць *кагó-што* санямі, у санях, на сáнках

**sledge I** [sledʒ] n. сáні *pl.*

**sledge II** [sledʒ] n., *гл.* **sledge hammer**

**sledge hammer** 1. кавáльскі мóлат. 2. нéшта мóцнае й зьнішчáльнае: ***Sarcasm can become a sledge hammer in a debate*** Саркáзм у ды́спуце мóжа стáцца зьнішчáльным удáрам

**sledge-hammer** [ˈsledʒˌhæmər] – v.t. біць мóлатам *абó* як мóлатам

– adj. мóцны; зьнішчáльны

**sleek** [sliːk] – adj. 1. мяккі, глáдкі, прыглáджаны: ***sleek hair*** глáдка прылíзаныя валасы́; ***a sleek cat*** кот зь мяккай, блíскýчай пóўсьцю. 2. хíтры, лісьлíвы: ***a sleek salesman*** прадавéц зь лісьлíвымі манéрамі і глáдкім языкóм

– v.t. прыглáджва|ць, прылíзваць

**sleep** [sliːp] – v.i. **slept** 1. спаць: ***He cannot sleep*** Ямý ня сьпíцца. 2. давáць

начлéг: ***A hotel that sleeps 500 people*** Гатэ́ль, які дае́ начлéг пяцістáм асóбам
– n. 1. сон сну *m.*: ***to go to sleep*** заснýць; ***to get a sleep*** паспáць; ***to put to sleep*** а) паклáсьці спаць (*дзіця́*). б) усыпля́ць (*жывёлу*); ***eyes heavy with sleep*** заспáныя вóчы. 2. сьпя́чка *f.*
• ***last sleep*** сьмерць
• ***sleep away*** праспáць
• ***sleep in*** а) жыць у дóме, дзе й працýеш. б) пóзна спаць, заспáць
• ***sleep like a log*** спаць, як забíты (*мóцным сном*)
• ***sleep off*** вы́спацца, адаспáцца: ***to sleep off a hangover*** вы́цьверазіцца

**sleeper** [ˈsli:pər] n. 1. сьпя́ч|ы -ага *m.* 2. спáльны вагóн (*у цягнікý*). 3. шпáла *f.* (*на чыгýнцы*). 4. запóзьненая нечакáная папуля́рнасьць
• ***sleepers*** дзіця́чы камбінэзóнчык для спáньня

**sleepiness** [ˈsli:pinəs] n. санлíвасьць, сóннасьць *f.*

**sleeping** [ˈsli:pɪŋ] – n. спаньнё *n.*
– adj. 1. які́ сьпіць. 2. спáльны: ***a sleeping car*** спáльны вагóн

**sleeping bag** спáльны мяшóк

**sleeping pill (tablet)** снатвóрная таблéтка

**sleeping sickness** сьпя́чка *f.* (*хварóба*)

**sleepless** [ˈsli:pləs] adj. 1. які́ ня сьпіць, які́ ня мóжа спаць; бяссóнны: ***sleepless night*** бяссóнная ноч. 2. чýйны. 3. заўсёды дзéйны

**sleeplessness** [ˈsli:pləsnəs] n. бяссóньніца *f.*

**sleepwalker** [ˈsli:pˌwɔ:kər] n. люнáтык -а *m.*

**sleepy** [ˈsli:pi] adj. 1. сóнны, санлíвы. 2. бязьдзéйны; цíхі, сóнны: ***sleepy town*** спакóйны гарадóк. 3. які́ навóдзіць сон; які́ ўсыпля́е, усыпля́льны: ***a warm, sleepy day*** цёплы, санлíвы дзень

**sleet** [sli:t] – n. аблівáха *f.*, аблí|вень -ўня *m.*, сьнег *абó* град з дажджóм
– v.i. сьняжы́ць з дажджóм: ***It snowed, then it sleeted; then it rained*** Ішóў сьнег, пасьля́ сьнег з дажджóм, а тады́ ўжо дождж

**sleety** [ˈsli:ti] adj. з мóкрым сьнéгам, слóтны: ***a sleety fall*** слóтная вóсень

**sleeve** [sli:v] n. рукавó *n.*, рукá|ў -вá *m.* (*вóпраткі*)
• ***have smth up one's sleeve*** а) мець, трымáць у запáсе. б) мець нéшта задýманае
• ***laugh in or up one's sleeve*** сьмяя́цца ў рукáў, сьмяя́цца цíха
• ***roll up one's sleeves*** закасáць рукавы́, узя́цца за прáцу

**sleeved** [sli:vd] adj. з рукавáмі

**sleeveless** [ˈsli:vləs] adj. безрукáвы: ***a sleeveless dress*** сукéнка без рукавóў

**sleigh** [sleɪ] – n. 1. вазóк -кá *m.*; сáні *pl. only.* 2. дзіця́чыя сáнкі
– v.i. 1. éзьдзіць саня́мі, вазкóм, у вазкý. 2. катáцца на сáнках

**sleighing** [ˈsleɪɪŋ] n. 1. яздá саня́мі. 2. сáнная дарóга: ***The warm rain spoiled the sleighing*** Цёплы дождж папсавáў сáнную дарóгу

**sleight** [slaɪt] n. 1. умéльства *n.*, спрыт -у *m.* 2. спры́тная, хíтрая вы́хадка

**sleight of hand** 1. спрáўнасьць рук. 2. штýчкі фóкусьнікаў; жанглёрства *n.*

**slender** [ˈslendər] adj. 1. высóкі і шчýплы (*пра асóбу*); даўгí й тóнкі: ***a slender piece of wood*** даўгí й тóнкі кавáлак дрэ́ва. 2. невялíкі, малы́; недастаткóвы: ***a slender meal*** невялíкі пасíлак; ***a slender income*** недастаткóвы пры́бытак; ***a slender hope*** слабáя надзéя

**slept** [slept] v., *p.t. and p.p. of* **sleep**

**slew** [slu:] v., *p.t. of* **slay**

**slice** [slaɪs] – n. 1. лýста *f.* (*хлéба, пiрагá*); скрыл|ь -я́ *m.*, скры́лік -а *m.* (*цыбýлі, каўбасы́*). 2. чáстка *f.*, удзéл -у *m.* 3. Sport. зрэ́заны ўдáр
– v.t. 1. рэ́заць, крóіць, накрóйваць; рэ́заць скрыля́мі. 2. дзялíць на чáсткі *абó* ўдзéлы. 3. Sport. зрэ́зана ўдáрыць

**slicer** [ˈslaɪsər] n. 1. прыла́да да кро́еньня хле́ба, каўбасы́. 2. той, хто рэ́жа

**slick** [slɪk] – adj. 1. гла́дкі, бліску́чы, прыгла́джаны (*пра валасы́*). 2. Informal спры́тны; ху́ткі; хі́тры: ***a slick excuse*** хі́тры вы́крут
– adv. гла́дка; хі́тра; спры́тна

**slid** [slɪd] v., *p.t. and p.p. of* **slide**

**slidden** [ˈslɪdən] v., *p.p. of* **slide**

**slide** [slaɪd] – v., **slid, slid** or **slidden** 1. ко́ўзацца. 2. со́ўгацца, со́вацца: ***The bureau drawers slide in and out*** Шуфля́ды бюро́ ўсо́ўваюцца і высо́ўваюцца. 3. прашмыгну́ць, прасьлізну́ць, тайко́м прабра́цца: ***The thief slid behind the curtains*** Зло́дзей прашмыгну́ў за што́ры. 4. сасьлі́згваць: ***The car slid into the ditch*** Машы́на сасьлізну́ла ў роў. 5. незаўва́жна міна́ць: ***the years slide past*** гады незаўва́жна міна́юць
– n. 1. ко́ўзаньне *n.* 2. сьне́жная гара́; кат|о́к -ка́ *m.* 3. го́ркі *pl.* (*на дзіця́чай пляцо́ўцы*). 4. спускавы́ жо́лаб. 5. апо́ў|зень -зьня *m.* (*гру́нту, сьне́гу*). 6. дыяпазыты́|ў -ву, слайд -у *m.* 7. прэпара́тнае шке́льца (*у мікраско́пе*)
• ***let slide*** не зварача́ць ува́гі на *што*, занядба́ць
• ***slide down/off*** ссо́ўвацца, сасьлі́згваць з *чаго́*
• ***slide in/into*** усо́ўваць
• ***slide out*** высо́ўваць, выця́гваць

**slide rule** лягарытмі́чная ліне́йка

**sliding scale** 1. рухо́мая шкала́ (*зарабо́ткаў, цэ́наў, пада́ткаў*). 2. лягарытмі́чная ліне́йка

**slight** [slaɪt] – adj. 1. малы́, невялі́кі, невялі́чкі, нязна́чны; нява́жны: ***a slight cold*** лёгкая засту́да; ***I have a slight headache*** Мне кры́ху балі́ць галава́. 2. шчу́плы: ***She is a slight girl*** Яна́ шчу́плая дзяўчы́на. 3. лёгкі, слабы́: ***a slight excuse*** слаба́я адгаво́рка
– v.t. 1. ста́віцца зь непаша́най *або́* зьнява́жліва; занядба́ць: ***to feel slighted*** чу́цца зьнява́жаным; ***She slights her work*** Яна́ нядба́ла ста́віцца да сваё пра́цы
– n. непаша́на, зьнява́га *f.*; занядба́ньне *n.*

**slighting** [ˈslaɪtɪŋ] adj. 1. непачці́вы. 2. зьневажа́льны, зьнява́жлівы; пага́рдлівы: ***a slighting remark*** зьневажа́льная заўва́га

**slightingly** [ˈslaɪtɪŋli] adv. зьневажа́льна, зьнява́жліва; непачці́ва; пага́рдліва

**slightly** [ˈslaɪtli] adv. ма́ла; крыху́, ледзь: ***I know him slightly*** Я крыху́ яго́ ве́даю

**slim** [slɪm] – adj. **(-mm-)** 1. шчу́плы, танкля́вы, то́нкі. 2. малы́, слабы́: ***slim chances*** слабы́я ша́нцы
– v.i. **(-mm-)** тане́ць, танчэ́ць, худне́ць
– v.t. рабі́ць танчэ́йшым
• ***slim down*** паме́ншыць (*паме́рам, ко́лькасьцю*)

**slime** [slaɪm] – n. 1. лі́пкая гразь, бруд -у *m.*, мул -у *m.*, глеĭй -ю *m.* 2. сьлізь *f.*
– v.t. пакрыва́ць сьлі́зьзю, пэ́цкаць гра́зьзю

**slimy** [slaɪmi] adj. 1. мулава́ты, гле́істы. 2. сьлі́зісты, вя́зкі, ліпу́чы. 3. бру́дны. 4. Figur. лісьлі́вы, падлі́зьлівы

**sling** [slɪŋ] – n. 1. пра́шча, рага́тка *f.* 2. а) пе́равязь *f.*: ***a man with an arm in a sling*** чалаве́к з руко́ю на пе́равязі. б) рэ́мень (*пры стрэ́льбе*). 3. а) ля́мка *f.* б) пятля́ з кана́та (*для пады́ма́ньня гру́зу*). 4. кід|о́к -ка́ *m.*
– v., **slung, slinging** 1. а) трыма́ць на пе́равязі. б) браць стрэ́льбу на рэ́мень. 2. падыма́ць кана́там. 3. кі́даць, шпурля́ць. 4. страля́ць з рага́ткі

**slingshot** [ˈslɪŋʃɑːt] n. рага́тка *f.*

**slip I** [slɪp] **slipped,** – v.i. 1. а) высьлі́згваць, прасьлі́згваць: ***She slipped out of the room*** Яна́ вы́сьлізнула з пако́ю; б) ***Time slips by*** Час ху́тка ляці́ць. 2. сасьлі́згваць: ***The knife slipped and cut my finger*** Нож сасьлізну́ў і парэ́заў мне па́лец. 3. пако́ўзвацца, пасьлі́згвацца: ***He slipped on the icy sidewalk*** Ён пакаўзну́ўся на

аблядзянéлым хóдніку. 4. уцякáць, зрывáцца: ***The dog slipped the chain*** Сабáка сарвáўся з ланцугá. 5. выпускáць: ***Your name has slipped from my mind*** Вáшае імя́ вы́скачыла мне з пáмяці; ***Don't let this opportunity slip*** Не прапусьці́ гэ́тае нагóды. 6. здымáцца зь я́кара (*пра карабéль*). 7. памыля́цца, рабíць памы́лкі

– v.t. 1. a) здымáць: ***She slipped the ring off her finger*** Янá зьнялá пярсьцёнак з пáльца. б) перадавáць, сувáць *камý штo* ўпóтай. 2. насьпéх апранáць: ***Slip on your coat*** Накíнь палітó; ***Slip off your shoes*** Скінь чаравíкі. 3. спускáць (*сабáку з пры́вязі*)

– n. 1. сьлíзганьне *n.* 2. навалóчка *f.* (*на падýшку*). 3. камбінáцыя (*жанóчая*). 4. памы́лка *f.* 5. пры́вязь *f.*, павад|óк -кá *m.* (*для сабáкі*)

• ***slip of the pen*** апíска *f.*

• ***slip of the tongue*** абмóўка, агавóрка *f.*

• ***slip one over on,*** Informal ашукáць, абдуры́ць; абхітры́ць, перахітры́ць

• ***slip up,*** Informal памылíцца, зрабíць памы́лку

**slip II** [slɪp] – v.t. флянсавáць

– n. 1. квітáнцыя *f.*, ліст|óк -кá *m.*: ***a slip of paper*** лістóк папéры. 2. флянс -а *m.*, бакавы́ пáрастак

**slip cover** or **slipcover** [ˈslɪpˌkʌvər] n. 1. чахl|óл -лá *m.* (*для мя́ккага крэ́сла абó канáпы*). 2. супэрвóкладка *f.* (*для кнíгі*)

**slippage** [ˈslɪpɪdʒ] n. 1. адставáньне *m.* 2. стрáта эфэктыўнасьці (*у матóры*)

**slipper** [ˈslɪpər] n. хáтні пантóф|аль -ля *m., pl.* пантóфлі; балéтка *f.*

**slipperily** [ˈslɪpərəli] adv. кóўзка, сьлíзка

**slipperiness** [ˈslɪpərinəs] n. каўзóта, сьлізгóта *f.*

**slippery** [ˈslɪpəri] adj. 1. кóўзкі, сьлíзкі. 2. Figur. ненадзéйны, сьлíзкі. 3. пакры́ты сьлíзьзю

**slipshod** [ˈslɪpʃɑːd] adj. 1. неахáйны: ***slipshod work*** неахáйная прáца; неахáйна апрáнуты. 2. са знóшаным абýткам

**slit** [slɪt] – v., **slit, slitting** рэ́заць на вýзкія палóсы; праразáць удóўжкі

– n. 1. разрэ́з, прарэ́з -у *m.* 2. шчы́ліна *f.*: ***the slit in the letter box*** шчы́ліна ў паштóвай скры́нцы

– adj. з прарэ́зам, з разрэ́зам: ***slit skirt*** спаднíца з разрэ́зам

**sliver** [ˈslɪvər] – n. 1. трэ́ска; шчапá *f.*; стрэ́мка *f.* 2. пáсма (*вóўны, лёну, бавóўны*)

– v. шчапáць (*на трэ́скі*)

**slobber** [ˈslɑːbər] – v.t. сьлíніць, засьлíньваць

– v.i. 1. сьлíніцца. 2. Figur. расчýльвацца, нюні распускáць

– n. 1. сьлíна *f.* 2. расчýленасьць *f.*

**slobbery** [ˈslɑːbəri] adj. 1. сьліня́вы. 2. мóкры, асьлíзлы, хлюпóтны (*пра надвóр'е*)

**slogan** [ˈsloʊgən] n. 1. кліч, зáклік, лёзунг -у *m.* 2. баявы́ кліч

**slop** [slɑːp] – n. 1. лýжына *f.* 2. сэнтымэнтáльнасьць *f.*

– v.i. разьлівáцца, расплю́хвацца

– v.t. расплю́хваць

• ***slop over*** наракáць, распускáць нюні

• ***slops*** а) памы́і. б) пóліўка

**slope** [sloʊp] – v.i. спускáцца; мець спад: ***a sloping roof*** спáдзістая стрaхá; ***The land slopes toward the sea*** Мясцóвасьць спадáе да мóра

– v.t. нахіля́ць, стáвіць кóса

– n. 1. схон, схіл, спуск -у *m.* (*гары́, узгóрка*); спад -у *m.* (*дáху*); адхóн (*пры дарóзе*)

**sloping** [ˈsloʊpɪŋ] – adj. спáдзісты; пахíлы, нахíлены

– adv. спáдзіста, пахíла

**sloppy** [ˈslɑːpi] adj. 1. вéльмі мóкры; хлюпóтны (*пра дарóгу*), слóтны (*пра надвóр'е*). 2. залíты, пазалівáны, захлю́паны: ***a sloppy table*** пазалівáны стол. 3. Informal неахáйны; нядбáйны; неакурáтны: ***to do sloppy work*** нядбáйна працавáць. 4. шырóкі, мешкавáты, недапасавáны: ***sloppy trousers*** мешкавáтыя пóрткі

**slot I** [slɑ:t] – n. шчы́ліна, адту́ліна *f.*: ***to drop a coin into a slot*** кі́нуць манэ́ту ў адту́ліну
– v.t. прарэ́зваць *або́* прабіва́ць дзі́рку

**slot II** [slɑ:t] n. даро́жка, сьце́жка *f.*, сьлед зьвяра́

**slot machine** аўтама́т (*гандлёвы, для аза́ртных гу́льняў*)

**sloth** [slouθ] n. 1. лянота *f.*, гульта́йства *n.* 2. Zool. ляні́|вец -ўца *m.*

**slough I** [slʌf] – n. 1. скі́нутая (*зьмяёй*) ску́ра. 2. струп -а́ *m.* (*на ра́не*). 3. забы́тая звы́чка
– v.t. скіда́ць, мяня́ць ску́ру (*пра зьмяю́*)
– v.i. сыхо́дзіць, зла́зіць (*пра струп*)

**slough II** [slu:] n. бало́та *n.*, дрыгва́ *f.*; вір -у *m.*

**Slovak** [ˈslouvæk] – n. 1. слава́к -а *m.*, слава́чка *f.* 2. слава́цкая мо́ва
– adj. слава́цкі

**Slovakian** [slouˈvækiən] adj. слава́цкі

**Slovene** [ˈslouvi:n] – n. 1. славе́н|ец -ца *m.*, славе́нка *f.* 2. славе́нская мо́ва
– adj. славе́нскі

**Slovenian** [slouˈvi:niən] – adj. славе́нскі
– n. славе́н|ец -ца *m.*, славе́нка *f.*

**slow** [slou] – adj. 1. мару́дны, паво́льны: ***a slow journey*** мару́днае падаро́жжа. 2. які́ по́зьніцца: ***a slow clock*** гадзі́ньнік, які́ по́зьніцца. 3. тупы́, адста́лы: ***a slow pupil*** адста́лы ву́чань. 4. ну́дны: ***a slow party*** ну́дная вечары́на. 5. вя́лы, мля́вы: ***Business is slow*** Га́ндаль ідзе́ вя́ла
– v.t. 1. запаво́льваць; зьмянша́ць ху́ткасьць: ***to slow down a car*** запаво́ліць машы́ну
– v.i. павальне́й ісьці́, е́хаць, запаво́льваць: ***Slow up when you drive through a town*** Запаво́ль ху́ткасьць, е́дучы праз го́рад
– adv. паво́льна

**slowly** [ˈslouli] adv. мару́дна (*праца-ва́ць*); паво́льна, паво́лі, пама́лу, пама́ле́ньку (*ісьці́, е́хаць*)

**slow match** бікфо́рдаў шнур

**slow motion** запаво́лены рух

**slowness** [ˈslounəs] n. паво́льнасьць, мару́днасьць *f.*

**slowpoke** [ˈsloupouk] n., Informal мару́д|а -ы *m. & f.*

**slow-witted** [ˌslouˈwɪtɪd] adj. слабы́ на ро́зум, тупагало́вы

**sludge** [slʌdʒ] n. 1. бало́та *n.*, дрыгва́ *f.* 2. мул -у, аса́д|ак -ку *m.*

**slug** [slʌg] n. 1. смоўж смаўжа́, сьлізьня́к -а́ *m.* 2. кава́лак мэта́лу (*няпра́вільнай фо́рмы*); ку́ля (*вы́стралена́я*). 3. жэто́н для аўтама́та. 4. Sl. глыто́к; ча́рка (*гарэ́лкі*)

**sluggard** [ˈslʌgərd] – n. гульта́|й -я́ *m.*, абібо́к -а *m.*
– adj. гультаява́ты, гульта́йскі

**sluggish** [ˈslʌgɪʃ] adj. 1. мару́дны; малаакты́ўны; неэнэргі́чны. 2. мля́вы, вя́лы; ляны́, гультаява́ты; апаты́чны. 3. паво́льны, запаво́лены: ***a sluggish river*** рака́ з паво́льнай плы́ньню; ***a sluggish digestion*** паво́льнае страва́ва́ньне

**sluice** [slu:s] – n. шлюз -а *m.* (*на рацэ́, кана́ле*)
– v.t. выпуска́ць ваду́, адчыні́ўшы шлюз

**sluice gate** шлю́завая бра́ма

**slum** [slʌm] n. трушчо́ба *f.*; нізы́ *pl.* (*сацыя́льныя*)

**slumber** [ˈslʌmbər] – v.i. 1. спаць; драма́ць. 2. быць бязьдзе́йным (*пра вулька́н*)
– n. 1. лёгкі сон. 2. бязьдзе́йны стан

**slump** [slʌmp] – v.i. 1. ця́жка па́дакць; бу́хацца ў крэ́сла. 2. права́львацца: ***The boy's feet slumped repeatedly through the melting ice*** Но́гі хлапца́ раз за ра́зам права́льваліся праз адта́лы лёд. 3. го́рбіцца, суту́ліцца
– n. 1. цяжко́е, рапто́ўнае падзе́ньне, права́льваньне *n.* 2. спад -у *m.* (*цэ́наў, дзе́йнасьці*). 3. го́рбленьне, суту́леньне *n.*

**slung** [slʌŋ] v., *p.t. and p.p. of* **sling**

**slur** [slɜ:r] – v.i. **(-rr-)** 1. невыра́зна вымаўля́ць: ***to slur one's words*** глыта́ць сло́вы. 2. невыра́зна пі́саць,

зьліва́ць лі́тары. 3. чарні́ць; абража́ць
– n. невыра́зная вымо́ва, гук. 2. пля́ма (*на рэпута́цыі*); паклёп -у *m.*, абра́за *f.*

**slurp** [slɜ:rp] v., Sl. хлябта́ць (*піць*); сёрбаць (*суп*); чвя́какаць, чмя́какаць (*едучы*)

**slush** [slʌʃ] n. 1. слата́, хлюпо́та *f.* 2. гразь *f.*, бало́та *n.* 3. Informal дурно́та *f.*

**slushy** [ˈslʌʃi] n. хлюпо́тны; сло́тны

**slut** [slʌt] n. 1. бру́днюха *f.* 2. шлю́ха, распу́сьніца *f.* 3. су́чка *f.*

**sluttish** [ˈslʌtɪʃ ] adj. 1. бру́дны, неаха́йны 2. немара́льны

**sly** [slaɪ] adj. 1. праны́рлівы, спры́тны. 2. хі́тры, падсту́пны: ***a sly plot*** падсту́пная змо́ва. 3. жартаўлі́вы, гарэ́зьлівы: ***a sly wink*** гарэ́зьлівае падмі́ргваньне
• ***on the sly*** крадко́м, тайко́м, упо́тай

**slyness** [ˈslaɪnəs] n. праны́рлівасьць, выкру́тлівасьць, спры́тнасьць, хі́трасьць *f.*

**smack I** [smæk] – n. 1. пры́смак -у *m.* 2. сьлед -у *m.*, адцэ́ньне *n.*: ***This apartment has a smack of tobacco about it*** У пако́і аддае́ тытунём
– v.i. мець пры́смак *чаго́*, аддава́ць *чым*

**smack II** [smæk] – v.t. 1. цмо́каць (*гу́чна цалава́ць*). 2. ля́паць, пля́скаць, шлёпаць (*асабл. дзіця́*). 3. ля́скаць (*пу́гаю*)
– n. цмок -у *m.* (*гу́чны пацалу́нак*)
– adv., Informal 1. з трэ́скам. 2. про́ста: ***smack in the middle*** у са́мы цэ́нтар

**smack III** [smæk] n. ма́лы ве́тразьнік; рыба́цкі чо́вен

**small** [smɔ:l] adj. 1. малы́, мале́нькі; невялі́кі, невялі́чкі: ***a small house*** малы́ дамо́к. 2. дро́бны, нязна́чны: ***small matters*** дро́бныя спра́вы; ***a small farmer*** дро́бны земляро́б (*земляўла́сьнік*). 3. нягу́чны: ***a small voice*** слабы́, нягу́чны (*го́лас*). 4. нікчэ́мны, дро́бны: ***a man with a small nature*** чалаве́к дро́бнае, нікчэ́мнае нату́ры
• ***feel small*** чу́цца засаро́мленым *або́* прыні́жаным

**small change** дро́бныя гро́шы

**small fry** драбяза́ *f.*

**small hours** ра́ньнія гадзі́ны

**small intestine** то́нкая кі́шка

**small letters** малы́я лі́тары

**small-minded** [ˌsmɔ:lˈmaɪndɪd] adj. абмежава́ны, недалёкі; дро́бязны

**smallpox** [ˈsmɔ:lpɑ:ks] n. во́спа *f.*

**small-scale** [ˌsmɔ:lˈskeɪl] adj. у малы́м машта́бе; абмежава́ны: ***small-scale maps*** ка́рты ў малы́м машта́бе; ***small-scale business*** мало́е прадпрые́мства

**small talk** дро́бная гу́тарка

**small-town** [ˌsmɔ:lˈtaʊn] adj. 1. местачко́вы; ву́зкі, правінцы́йны. 2. абмежава́ны (*у по́глядах*):***small-town bigotry*** местачко́вая неталера́нтнасьць

**smart** [smɑ:rt] – v.i. адчува́ць во́стры боль; мо́цна бале́ць: ***The cut smarts*** Парэ́з пячэ́
– v.t. спрычыня́ць пяку́чы боль: ***The insult smarts yet*** Зьнява́га яшчэ́ мо́цна балі́ць
– n. во́стры боль
– adj. 1. рэ́зкі, мо́цны. 2. шпа́ркі, ху́ткі, жва́вы: ***They walked at a smart pace*** Яны́ йшлі шпа́ркім кро́кам. 3. разу́мны, ке́млівы, бы́стры: ***a smart child*** разу́мнае дзіця́. 4. дасьці́пны, спры́тны, хі́тры, кі́дкі. 5. згра́бны, прысто́йны: ***He looked smart in his uniform*** Ён прысто́йна выгляда́ў у мундзі́ры. 6. мо́дны, элега́нтны, шыко́ўны: ***a smart hat*** мо́дны капялю́ш

**smartness** [ˈsmɑ:rtnəs] n. 1. спрыт -у *m.* 2. ке́млівасьць, разу́мнасьць *f.* 3. мо́днасьць, элега́нтнасьць *f.*

**smash** [smæʃ] – v.t. 1. a) разьбіва́ць: ***to smash a window*** разьбі́ць акно́. б) вyло́мваць: ***to smash a door in*** вы́садзіць дзьве́ры. в) плю́шчыць (*уда́рам*). 2. Figur. разьбіва́ць, аспрэ́чваць: ***to smash an argument*** разьбі́ць аргумэ́нт. 3. адбіва́ць (*напа́д*), зьніш-

ча́ць (*во́рага*). 4. мо́цна ўдара́ць (*мя́чык, асо́бу*)

– v.i. 1. банкрутава́ць, руйнава́цца. 2. разьбіва́цца, удара́цца: ***The car smashed into a tree*** Машы́на разьбі́лася аб дрэ́ва

– n. 1. сутыкне́ньне *n.* (*напр. дзьвюх машы́наў*). 2. бра́згат -у *m.* (*пабі́тага шкла*). 3. крах -у *m.*, банкру́цтва *n.* 4. Informal по́сьпех -у *m.* (*тэатра́льны*)

**smash hit** папуля́рны твор (*п'е́са, фі́льм, кружэ́лка*)

**smear** [smɪr] – v.t. 1. пэ́цкаць: ***His fingers were smeared with paint*** Па́льцы ў яго́ былі запэ́цканыя фа́рбай. 2. шмарава́ць; ма́заць, (*ма́зьзю, алі́вай*). 3. пля́міць (*рэпута́цыю*); бру́дзіць, пэ́цкаць, псава́ць

– n. 1. пля́ма *f.* 2. маз|о́к -ка́ *m.* (*для мікраскапі́чнага дасьле́даваньня*). 3. паклёп -у *m.*

**smeary** [ˈsmɪri] adj. запэ́цканы, забру́джаны

**smell** [smel] – v.t. **smelled** or **smelt** 1. чуць пах: ***I smell smoke*** Я чу́ю пах ды́му. 2. ню́хаць, абню́хваць

– v.i. 1. па́хнуць: ***The rose smells sweet*** Ру́жа прые́мна па́хне. 2. сьмярдзе́ць: ***Garbage smells*** Сьме́цьце сьмярдзі́ць. 3. па́хнуць *чым*; тхаць, патыха́ць, тхнуць, не́сьці *чым*: ***The plan smells of trickery*** Плян па́хне ашука́нствам

– n. 1. нюх -у *m.* 2. пах -у *m.*: ***smell of burning*** гар -у *m.*; ***bad smell*** непрые́мны пах, смуро́д -у *m.*

• ***smell danger*** чуць небясьпе́ку

• ***smell out*** а) разьню́хаць, вы́ведаць. б) вы́явіць, праню́хаць: ***The dog will smell out a thief*** Саба́ка ўчу́е зло́дзея; ***to smell out a secret*** вы́нюхаць сакрэ́т

• ***smell up,*** Informal засмуро́дзіць, запо́ўніць смуро́дам

• ***take a smell of something*** ню́хаць што-н.

**smelly** [ˈsmeli] adj. а) з мо́цным па́хам. б) сьмярдзю́чы

**smelt I** [smelt] v.t. 1. пла́віць (*руду́*). 2. ачышча́ць шля́хам плаўле́ньня

**smelt II** [smelt] n., **smelt, smelts** сты́нка *f.* (*ры́ба*)

**smelt III** [smelt] v., *p.t. and p.p. of* **smell**

**smile** [smaɪl] – v.i. усьміха́цца: ***She smiled consent*** Яна́ ўсьміхну́лася на зго́ду; ***She smiled bitterly*** Яна́ го́рка ўсьміхну́лася

– n. усьме́шка *f.*

**smiling** [ˈsmaɪlɪŋ] adj. усьме́шлівы

**smirk** [smɜːrk] n. ухмы́лка *m.*

**smith** [smɪθ] n. кава́л|ь -я́ *m.*

**smithwork** [ˈsmɪθwɜːrk] n. 1. кава́льства *n.* 2. мэталі́чныя вы́рабы

**smithy** [ˈsmɪði] n., pl. **smithies** ку́зьня *f.*

**smock** [smɑːk] n. рабо́чы хала́т

**smoke** [smoʊk] – n. 1. дым -у *m.* 2. куро́дым, курады́м -у *m.*, густы́ е́дкі дым: ***blackened with smoke*** закурэ́лы, закуро́дымлены,螺 задымлены. 3. пераку́р -у *m.*, курэ́ньне *n.*: ***to have a smoke*** закуры́ць. 4. ку́рыва *n.* 5. Figur. засло́на *f.*

– v.i. 1. дыме́ць; дымі́цца; куры́цца: ***The furnace smokes*** Печ дымі́ць. 2. куры́ць, заку́рваць (*цыгарэ́ту, лю́льку*). 3. курэ́ць, пакрыва́цца са́жай, задымля́цца

– v.t. 1. вэ́ндзіць, дымі́ць (*мя́са, ры́бу, кумпякі́*). 2. зады́мліваць

• ***go up in smoke*** пайсьці́ з ды́мам

• ***smoke out*** вы́курыць а) вы́гнаць ды́мам (*напр. лісу́ з нары́*). б) вы́жыць, прыму́сіць вы́йсьці

**smokehouse** [ˈsmoʊkhaʊs] n. вяндля́рня *f.*

**smoked** [smoʊkt] adj. вэ́нджаны, ды́млены

**smoker** [ˈsmoʊkər] n. 1. кур|э́ц -ца́ *m.* 2. ваго́н для пасажы́раў-курцо́ў

**smoke screen** дымава́я засло́на

**smokestack** [ˈsmoʊkstæk] n. высо́кі ко́мін

**smoky** [ˈsmoʊki] adj. 1. ды́мны, які́ дымі́ць. 2. по́ўны ды́му. 3. закурэ́лы, заку́раны, пакры́ты са́жаю. 4. ды́мчаты: ***a smoky gray*** ды́мчата-шэ́ры ко́лер

**smolder** or **smoulder** [ˈsmouldər] – v.i. 1. тлець, смылéць; тлéцца, цяплíцца. 2. таíць (*напр. злосьць, нянáвісьць*)
– n. тлéньне *n.*

**smooth** [smu:ð] – adj. 1. глáдкі, рóўны. 2. плáўны, спакóйны. 3. мя́ккі: ***smooth wine*** мя́ккае віно́
– v.t. 1. выраўнóўваць, выглáджваць (*павéрхню*); выпрасóўваць. 2. зьмякчáць
– n. 1. выглáджваньне. 2. глáдкае мéсца
• ***smooth away*** палагóджваць, зглáджваць
• ***smooth down*** супакóйваць, суцíшваць, зьмякчáць, аблягчáць (*боль*)
• ***smooth over*** зглáджваць, зьмякчáць (*віну́, няёмкасьць*)

**smoothly** [ˈsmu:ðli] adv. глáдка, рóўна

**smooth-faced** [ˌsmu:ðˈfeɪst] adj. 1. чы́ста пагóлены. 2. з глáдкай павéрхняй. 3. крывадýшны, лісьлíвы

**smooth-spoken** гладкамóўны, салодкамóўны

**smother** [ˈsmʌðər] – v.t. 1. душы́ць (*нáсьмерць*). 2. пакрывáць тóўстым пластóм (*лíсьця, сьнéгу*). 3. гасíць агóнь, засыпáючы пóпелам. 4. тушы́ць (*мя́са, капу́сту*)
– v.i. душы́цца, задыхáцца: ***We almost smothered in that stuffy room*** Мы ледзь не задыхну́ліся ў тым ду́шным пакóі
– n. густы́, задýшлівы дым, пыл, імглá

**smothery** [ˈsmʌðəri] adj. задýшлівы (*пра дым, газ*)

**smug** [smʌg] adj. 1. самазадавóлены. 2. ахáйны, акурáтны, чы́сты

**smuggle** [ˈsmʌgəl] v.i. 1. займáцца кантрабáндай: ***smuggle drugs*** тáйна перавóзіць наркóтыкі. 2. шмуглявáць, вынóсіць патаéмна

**smuggler** [ˈsmʌglər] n. кантрабанды́ст -а *m.*

**smuggling** [ˈsmʌglɪŋ] n. кантрабáнда *f.*

**smut** [smʌt] – n. 1. сáжа *f.*; бруд -у *m.* 2. брýдная пля́ма. 3. непрыстóйнасьць *f.* 4. Bot. іржá *f.*
– v. 1. пэ́цкаць|ь (-ца) іржóю

**smutty** [ˈsmʌti] adj. 1. запэ́цканы сáжай, брýдны, карэ́лы. 2. непрыстóйны, бры́дкі

**snack** [snæk] – n. 1. лёгкая перакýска. 2. чáстка, дóля *f.*
– v.i. перакýсваць, закýсваць

**snack bar** закýсачная *f.*

**snaffle** [ˈsnæfəl] – n. цýглі *pl. only*
– v.t. кілзáць, цугля́ць (*каня́*)

**snag** [snæg] – n. 1. патарчáка *f.* 2. корч (*падвóдны*), тапля́к -á *m.* 3. аблóманы зуб. 4. Figur. перашкóда *f.*: ***We hit a snag*** Мы напарóліся на раптóўную перашкóду. 5. вы́цягнутая нíтка (*з тканíны*)
– v.i. 1. замінáць, перашкаджáць; спатыкáцца. 2. зачапля́цца; хапáць. 3. ачышчáць ад карчóў, сукóў

**snaggy** [ˈsnægi] adj. 1. сукавáты: ***snaggy tree*** сукавáтае дрэ́ва. 2. з патарчáкамі, перашкóдамі

**snail** [sneɪl] n. 1. смоўж смаўжá *m.*, сьлімáк -á *m.* 2. Figur. лянíвы, павóльны чалавéк
• ***snail mail*** звычáйная пóшта (*у супрацьпастаўлéньні электрóннай*)
• ***snail's pace*** чарапáшы крóк

**snake** [sneɪk] – n. 1. зьмяя́, вужáка *f.* 2. хíтры, здрáдлівы, вералóмны чалавéк. 3. зьмéйка, трос для прачышчáньня трýбаў (*у сантэ́хніцы*)
– v.i. вíцца, круцíцца, як вужáка
• ***snake in the grass*** а) падкалóдная зьмяя́. б) нечакáная небясьпéка

**snake pit** 1. я́ма, пóўная зьмéяў. 2. Informal зьмяíнае гнязднó

**snap** [snæp] – v., **(-pp-)** v.i. трэ́скаць: ***This wood snaps as it burns*** Гэ́тыя дрóвы гарáць з трэ́скам. 2. ля́пацъ, ля́скаць, шчóўкаць: ***The latch snapped*** Ля́пнула зáсаўка. 3. трэ́скацца, лóпацца, рвáцца: ***the string snapped*** лóпнула струнá. 4. хапáцца (*за прапанóву, нагóду*)
– v.t. цáпаць, хапáць, кусáць: ***The dog snapped at the child's hand*** Сабáка цáпнуў дзіця́ за рýчку. 2. адрэ́заць,

вы́крыкнуць, агрызну́цца: “***Silence!” snapped the teacher*** «Ціха!» кры́кнуў настаўнік. 3. рабіць зды́мак

– n. 1. ля́сканьне, ля́паньне, шчо́ўканьне *n.* (*замка́*), трэск -у *m.* (*гальля́*). 2. энэргі́чнасьць, жва́васьць *f.* (*у ру́хах, у сты́лі*); рапто́ўнасьць: ***cold snap*** рапто́ўнае пахаладаньне. 3. кно́пка *f.* (*на адзе́жы*). 4. пстры́каньне па́льцамі. 5. Informal фотазды́м|ак -ку *m.* 6. Sl. лёгкае зада́ньне

– adj. 1. ху́ткі: ***a snap judgment*** ху́ткая высно́ва; ху́ткі прысу́д. 2. Sl. лёгкі, няця́жкі

• ***not a snap*** зусі́м не, ані́

• ***snap back*** ху́тка ачуня́ць

**snappish** [ˈsnæpɪʃ] adj. 1. кусьлі́вы, зло́сны (*пра саба́ку*). 2. ху́ткі, бы́стры, нецярплі́вы

**snapshot** [ˈsnæpʃɑ:t] – n. фотазды́мак

– v.t. сфатаграфава́ць

**snare** [sner] – n. сіло́ *n.*, па́стка *f.*

– v.t. лаві́ць у сіло́ *або́* па́стку

**snarl I** [snɑ:rl] – v.i. 1. гы́ркаць, шчэ́рыць зу́бы (*пра саба́ку*). 2. свары́цца, гы́ркаць: ***to snarl to each other*** гы́ркаць, гру́ба й зласьлі́ва гавары́ць адзі́н да аднаго́

– n. гы́рканьне *n.*

**snarl II** [snɑ:rl] – n. 1. блытані́на *f.*; ко́смы *pl.* (*валасо́ў*). 2. заблы́танасьць *f.*; замяша́ньне *n.*, непара́д|ак -ку *m.*

– v.t. 1. блы́таць (*ні́ткі, валасы́*). 2. прыво́дзіць у замяша́ньне, непара́дак

**snatch** [snætʃ] – v.t. 1. хапа́ць, падхо́пліваць: ***The dog snatched the bone*** Саба́ка схапі́ў ко́стку. 2. ху́тка здыма́ць, зрыва́ць: ***He snatched off his hat and bowed*** Ён ху́тка зьняў капялю́ш і пакланíўся. 3. Sl. выкрада́ць (*чалаве́ка*)

– n. 1. хапа́ньне, лаўле́ньне *n.*: ***to make a snatch at the ball*** стара́цца злаві́ць мяч. 2. каро́ткі час: ***to have a snatch of sleep*** ко́ратка паспа́ць. 3. уры́|вак -ўку *m.*: ***to hear snatches of conversation*** чуць уры́ўкі гу́таркі. 4. Sl. выкрада́ньне *n.* (*людзе́й*)

• ***by (in) snatches*** уры́ўкам; пры́хапкам, пры́хваткам

• ***snatch at*** а) ухапі́цца за *што.* б) скарыста́ць, вы́карыстаць (*наго́ду*)

**snath** [snæθ] n. касьсё *n.*

**sneak** [sni:k] – v.i. 1. падкрада́цца, пракрада́цца. 2. дзе́яць упо́тай, цішко́м

– v.t. 1. бра́ць, перадава́ць крадко́м. 2. Informal кра́сьці

– n. 1. падкрада́ньне *n.*: ***to take a sneak*** незаўва́жна вы́йсьці *або́* ўцячы́, змы́цца. 2. няго́днік, дано́счык -а *m.*

• ***sneak out of*** спры́тна вы́круціцца з *чаго́*

**sneaker** [ˈsni:kər] n. 1. спарто́вы чараві́к, красо́ўка *f.* 2. той, хто падкрада́ецца *або́* дзе́е крадко́м

**sneaking** [ˈsni:kɪŋ] adj. 1. та́йны; прыхава́ны, скры́тны. 2. патае́мны, схава́ны, скры́ты; незразуме́лы, невытлумача́льны: ***to have a sneaking suspicion*** мець скры́тае прадчува́ньне

**sneakingly** [ˈsni:kɪŋli] adv. упо́тай, крадко́м; патае́мна

**sneaky** [ˈsni:ki] adj. няго́дны, падсту́пны

**sneer** [snɪr] – v.i. а) насьміха́цца; рабі́ць кпі́ны; кпі́ць. б) насьме́шліва ўсьміха́цца

– n. насьме́шка *f.*, кпі́ны *pl.*

**sneeze** [sni:z] – v.i. чхаць

– n. чха́ньне *n.*, чы́хаўка *f.*

• ***sneeze at,*** Informal чхаць на *каго́* (*ста́віцца з пага́рдай або́ непава́гай*): ***He is not to be sneezed at*** Зь ім не́льга не лічы́цца

**sniff** [snɪf] – v.i. 1. ню́хаць. 2. шмо́ргаць но́сам. 3. незадаво́лена фы́ркаць: ***She sniffed at the present to show her contempt*** Яна́ скрыві́лася на пада́рунак, каб паказа́ць сваю́ пага́рду

– v.t. 1. ню́хаць, чуць ню́хам (*пра саба́ку*). 2. уця́гваць, удыха́ць но́сам. 3. Figur. выкрыва́ць, вынюхваць (*змо́ву, небясьпе́ку*)

– n. 1. чмы́ханьне *n.* 2. уды́х -у *m.*; удыха́ньне *n.* 3. нюх, пах -у *m.*

**sniffle** [ˈsnɪfəl] – v.i. 1. хлі́паць: ***The child stopped crying, but kept on sniffling***

Дзіця́ перастáла плáкаць, але яшчэ́ ўсё ўсхліпвала. 2. сапці́ праз залóжаны нос

– n. хліпаньне, усхліпваньне *n.*

**snip** [snɪp] – v., **(-pp-)** v.t. рэ́заць, стры́гчы нажніцамі, пераразáць

– n. 1. надрэ́з -у *m.*: ***With a few snips she cut out a paper doll*** Не́калькімі надрэ́замі яна́ вы́разала ля́льку з папе́ры. 2. абрэ́зак -ку *m.*: ***the snips of cloth and thread*** абрэ́зкі тканíны і нíтак

• ***snips*** нажнíцы

**snipe** [snaɪp] – n., collect. **snipe,** pl. **snipes,** Zool. бакáс -а *m.* (*пту́шка*)

– v.t. 1. палявáць на бакáсаў. 2. страля́ць са схóванкі, трáпна страля́ць

**sniper** [ˈsnaɪpər] n. снáйпэр -а *m.*

**snivel** [ˈsnɪvəl] – v.i. **(-ll-)** плáкаць, усхліпваючы; распускáць сóплі

– n. 1. плаксíвасьць *f.* 2. смаркачы́, сóплі *pl. only*

**snob** [snɑ:b] n. сноб -а *m.*

**snobbery** [ˈsnɑ:bəri] n., pl. **-beries** снабíзм -у *m.*

**snobbish** [ˈsnɑ:bɪʃ] adj. снабíсцкі

**snoop** [snu:p] v.i., Informal шнáрыць, падглядáць

**snooze** [snu:z] – v., Informal паспáць, падрамáць

– n. карóткі сон, дрымóта *f.*

**snore** [snɔ:r] – v.i. храпці́

– n. храпе́ньне *n.*; храп -у *m.*

**snorer** [ˈsnɔ:rər] n. храпу́н -á *m.*

**snort** [snɔ:rt] – v.i. 1. пы́рхаць, фы́ркаць; храпці́: ***The horse snorted*** Конь хроп. 2. пы́хкаць (*пра паравóз*). 3. чмы́хаць: ***"Indeed!" snorted my aunt*** «Запраўды́!» — чмы́хнула мая́ цётка. 4. Informal ню́хаць (*наркóтык*)

– n. 1. пы́рханьне, фы́рканьне *n.*; храп -у *m.* (*каня́*). 2. пы́хканьне *n.* 3. чмы́ханьне *n.*

**snout** [snaʊt] n. 1. мы́за, пы́са, мóрда *f.* (*каня́, карóвы*), мóрдачка *f.* (*вавёркі, зáйца*). 2. лыч -á *m.*, ры́ла *n.* (*сьвíньні*). 3. пáшча, зя́па *f.* (*сабáкі, ры́бы*). 4. Informal чалаве́чы нос (*асаблíва вялíкі*)

**snow** [snoʊ] – n. 1. сьнег -у *m.* 2. сьнегапáд -у *m.* 3. Sl. какаíн *абó* гэраíн -у *m.*

– v.i. 1. сьняжы́ць, íсьці (*пра сьнег*): ***It is snowing all day*** Увéсь дзень ідзé сьнег

• ***snow in*** or ***snow up*** занóсіць, засыпáць, завявáць сьне́гам

• ***snow under*** пакрывáць сьне́гам

**snowball** [ˈsnoʊbɔ:l] – n. сьне́жка *f.*

– v.i. 1. гуля́ць у сьне́жкі. 2. Figur. раптóўна павелічáцца, узрастáць

**snowbank** [ˈsnoʊbæŋk] n. гу́рба сьне́гу

**snow-blind** [ˈsnoʊblaɪnd] асле́плены бля́скам сьне́гу

**snow blower** сьне́гаачышчáльнік -а *m.*

**snow-bound** [ˈsnoʊbaʊnd] adj. заве́яны, зане́сены сьне́гам

**snowdrift** [ˈsnoʊdrɪft] n. 1. гу́рба сьне́гу, сумёт -у *m.* 2. мяце́ліца *f.*

**snowdrop** [ˈsnoʊdrɑ:p] n., Bot. падсьне́жнік -а *m.*

**snow fence** сьнегаахóўны плот

**snowflake** [ˈsnoʊfleɪk] n. сьняжы́нка *f.*

**snowman** [ˈsnoʊmæn] n. **-men** сьнегавáя бáба, сьне́жная бáба

**snowmelt** [ˈsnoʊmelt] n. вадá з растáлага сьне́гу

**snowmobile** [ˈsnoʊməˌbi:l] n. 1. сьнегахóд -а *m.* 2. скíду́, *indecl.*, малы́ сьнегахóд

**snowplough** or **snowplow** [ˈsnoʊplaʊ] n. сьнегаачышчáльнік -а *m.*

**snowshoe** [ˈsnoʊʃu:] n. сьнегасту́п -а *m.*

**snowslide** [ˈsnoʊslaɪd] n. сьнегавáя лявíна

**snowstorm** [ˈsnoʊstɔ:rm] n. віху́ра, завіру́ха, заве́я, мяце́ліца *f.*

**snow-white** [ˈsnoʊhwaɪt] adj. бе́лы як сьнег, сьне́жна-бе́лы

**snowy** [ˈsnoʊi] adj. 1. сьне́жны (*пра зіму́*). 2. засьне́жаны, зане́сены сьне́гам, сьнегавы́. 3. сьне́жна-бе́лы: ***She has snowy hair*** Валасы́ ў яе́ бе́лыя, як сьнег. 4. са сьне́гам (*экрáн тэлевíзара*)

**snuff I** [snʌf] – v.t. 1. уця́гваць праз нос: ***She snuffs up salt and water to cure a cold*** Янá ўця́гвае нóсам сóленую ваду́, каб лячы́ць кáтар. 2. вынюх-

ваць, чуць нóсам (*пра сабáку*). 3. нюхаць табáку.
– n. панюшка f.; табáка f., нюхальны тытýнь
• ***up to snuff***, Informal у дасканáлым парáдку *абó* стáне

**snuff II** [snʌf] – n. нагáр -у m. (*на сьвéчцы*)
– v.t. 1. гасíць сьвéчку. 2. адшчыпваць кнóт сьвéчкі
• ***snuff out*** а) згасíць. б) здушы́ць, спыніць: ***The dictator snuffed out all opposition*** Дыктáтар здушы́ў усю апазы́цыю

**snuffbox** [ˈsnʌfbɑ:ks] n. табакéрка f.

**snuffers** [ˈsnʌfərz] n., pl. шчыпцы́ для кнóта

**snuffle** [ˈsnʌfəl] – v.i. 1. сапцí праз залóжаны нос. 2. гавары́ць у нос, гугнíць, гугня́віць
– n. гугнéньне n.
• ***the snuffles,*** Informal а) гугня́васьць f. б) ды́хальная хварóба ў жывёлы

**snug** [snʌg] adj. 1. утýльны, выгóдны. 2. шчы́льна дапасавáны: ***a little too snug*** цеснавáты. 3. дастаткóвы: ***a snug income*** невялíкія, але дастаткóвыя прыбы́ткі

**snuggle** [ˈsnʌgəl] – v.i. тулíцца, прытуля́цца; лáшчыцца
– v.t. тулíць, прытуля́ць, лáшчыць (*дзіця́тка*)

**so I** [soʊ] – adv. 1. гэ́так, так: ***He said so*** Ён сказáў гэ́так; ***Do not walk so fast*** Ня ідзí гэ́так хýтка; ***Why are you so late?*** Чамý вы так спазьнíліся?; ***He was not so cold as she was*** Ямý не былó так халóдна, як ёй. 2. вéльмі: ***You are so kind*** Вы вéльмі лáскавыя; ***My head aches so*** Мне так балíць галавá. 3. дык: ***The dog was hungry; so we fed it*** Сабáка быў галóдны, дык мы ягó накармíлі
– conj. 1. каб: ***Go away so I can rest*** Адыдзíся, каб я мог адпачы́ць. 2. тамý: ***I was ill and so I could not come*** Я быў хвóры і тамý ня мог прыйсьцí
– pron. такí сáмы: ***He was a rich man, but he did not remain so*** Ён быў багáтым чалавéкам, але не застáўся такíм назаўсёды
• ***and so*** а) гэ́так жа; таксáма: ***You are young and so am I*** Вы малады́, і я таксáма. б). адпавéдна *чамý*, згóдна з *кíм-чым*
• ***or so*** больш-менш; каля́: ***It cost a dollar or so*** Гэ́та каштавáла каля́ даля́ра
• ***so as*** тамý, каб
• ***so far*** дагэ́туль, пакýль што
• ***so that*** а) па тóе, каб: ***He studies hard so that he will get high marks*** Ён старáнна вýчыцца, каб атрымáць высóкія адзнáкі. б) каб тóлькі

**so II** [soʊ] n., Mus. соль (*нóта*)

**soak** [soʊk] – v.i. 1. мóкнуць, прамакáць. 2. прасякáць, прапíтваць: ***Water will soak through the earth*** Вадá прасякáе ў зямлю
– v.t. 1. намóчваць; мачы́ць (*бялíзну*). 2. уця́гваць, уця́гваць, убірáць: ***The sponge soaked up the water*** Гýбка ўвабрáла вадý. 3. Sl. сурóва пакарáць, аддубáсіць. 4. Sl. вымóтваць, выця́гваць (*грóшы*)
– n. 1. мачэ́ньне, намóчваньне n. 2. Sl. п’я́ніц|а -ы m.& f.
• ***soak up*** а) убірáць: ***to soak up the fresh air and sunshine*** пады́хаць сьвежым павéтрам і пагрэ́цца на сóнцы. б) засвóйваць, убірáць у сябé вéды

**soaked** [soʊkt] adj. змакрэ́лы, прамóклы

**so-and-so** [ˈsoʊəndsoʊ] n., pl. **-sos** такí і такí; (*замест імя́*)

**soap** [soʊp] – n. 1. мы́ла n. 2. Sl. грóшы (*асаблíва грóшы на хáбар*)
– v.t. мы́ліць, намы́льваць, мыць мы́лам

**soap bubble** мы́льная бýрбалка

**soapiness** [ˈsoʊpinəs] n. мы́лкасьць f.

**soap opera** тэлесэрыя́л -у m.

**soapsuds** [ˈsoʊpsʌdz] n., pl. мы́льная пéна

**soapy** [ˈsoʊpi] adj. 1. мы́льны, мы́лкі (*вадá, мы́ла*). 2. намы́лены. 3. як мы́ла, глáдкі, асьлíзлы

**soar** [sɔ:r] v.i. 1. высóка лятáць, лунáць; ляцéць угóру. 2. Figur. узнóсіцца; сягáць (*пра амбíцыі*). 3. уздымáцца, вы́сіцца (*над навакóльлем*). 4. плáўна ляцéць (*пра планёры, птýшку*)

**sob** [sɑ:b] – v., **(-bb-)** 1. усхліпваць. 2. гаварыць, усхліпваючы
– n. хлíпаньне, усхліпваньне *n.*, хліп, плач -у *m.*

**sober** [ˈsoʊbər] – adj. 1. цьвярóзы. 2. стры́маны, памяркóўны. 3. ціхі, паважны. 4. спакóйны, развáжны: ***His words were sober and wise*** Ягóныя слóвы былі развáжныя й разýмныя. 5. ***sober facts*** чы́стыя *абó* гóлыя фáкты (*безь перабóльшаньняў*)
– v.t. цьверазíць, ацьвеaccordingжáць
• ***sober down*** паспакайнéць, спаважнéць
• ***sober up (or off)*** ацьверазéць

**soberness** [ˈsoʊbərnəs] or **sobriety** [səˈbraɪəti] n. **-ties** 1. цьвярóзасьць *f.* 2. стры́манасьць, памяркóўнасьць *f.* 3. супакóй -ю *m.*, паважнасьць *f.*

**so-called** [ˌsoʊˈkɔ:ld] adj. гэтак называны; гэтак званы: ***Her so-called friend dislikes her*** Ейная гэтак званая сябрóўка яé ня любіць

**soccer** [ˈsɑ:kər] n. футбóл -у *m.*

**sociability** [ˌsoʊʃəˈbɪləti] n., pl. **-ties** тавáрыскасьць, грамáдзкасьць *f.*

**sociable** [ˈsoʊʃəbəl] – adj. тавары́скі, грамáдзкі; сябрóўскі, прыя́зны: ***We had a sociable afternoon together*** У сябрóўскіх гýтарках мы прабáвілі рáзам вéчар
– n. сябрóўскі, тавары́скі вéчар

**social** [ˈsoʊʃəl] – adj. 1. грамáдзкі; сацыя́льны: ***social insurance*** сацыя́льнае страхавáньне; ***social problems*** сацыя́льныя праблéмы. 2. тавары́скі: ***a social club*** клюб для тавары́скіх мэ́таў; ***She has a social nature*** Янá мáе тавары́скую натýру. 3. сацыялісты́чны
– n. сябрóўская збóрка, вечары́на *f.*

**social disease** вэнэры́чная хварóба

**social insurance** сацыя́льнае страхавáньне

**socialism** [ˈsoʊʃəˌlɪzəm] n. сацыялíзм -у *m.*

**socialist** [ˈsoʊʃəlɪst] – n. сацыялíст -а *m.*, сацыялíстка *f.*
– adj. сацыялісты́чны

**social security** сацыя́льнае забесьпячэ́ньне *n.*

**social service,** *гл.* **social work**

**social studies** грамадазнáўства *n.*

**social work** сацыя́льная прáца; грамáдзкая прáца

**society** [səˈsaɪəti] n., pl. **-ties** грамáдзтва *n.*; тавары́ства *n.*; грамадá *f.*

**sociology** [ˌsoʊsiˈɑ:lədʒi] n. сацыялёгія *f.*

**sock** [sɑ:k] n. шкарпэ́тка *f.*

**socket** [ˈsɑ:kət] n. 1. упáдзіна *f.*, паглыблéньне, гняздó *n.*: ***eye socket*** вачніца *f.* 2. Electr. (*штэ́псэльная*) разэ́тка

**sod** [sɑ:d] – n. 1. дзірвáн -ý *m.*, дзёрlан -ну *m.* 2. пласт дзёрну, дзярніна *f.*
– v.t. **(-dd-)** пакрывáць, закладáць дзёрнам

**soda** [ˈsoʊdə] n. 1. сóдавая *f.*: ***soda water*** сóдавая вадá з фруктóвым сырóпам

**sodden** [ˈsɑ:dən] adj. 1. прамóклы, прамóчаны: ***My clothes were sodden with rain*** Мая́ вóпратка прамóкла на дажджы́. 2. сыры́, сыравáты (*пра хлеб*)

**sodium** [ˈsoʊdiəm] n. нáтрый -ю *m.*

**-soever,** suffix -кóлечы: ***whosoever*** хтó-кóлечы; ***whatsoever*** штó-кóлечы; ***whensoever*** калí-кóлечы; ***wheresoever*** дзé-кóлечы

**sofa** [ˈsoʊfə] n. канáпа *f.*; сафá *f.*

**soft** [sɔ:ft] – adj. 1. мя́ккі, мяккí: ***a soft pillow*** мяккáя падýшка; ***soft skin*** мяккáя скýра. 2. ціхі, спакóйны: ***a soft voice*** ціхі гóлас. 3. лагóдны (*пра сьвятлó*). 4. мяккí, далікáтны: ***a soft heart*** чýлае сэ́рца
– adv. мя́кка; ціха, паціху; далікáтна

**soft-boiled** [ˌsɔ:ftˈbɔɪld] adj. лёгказвáраны: ***soft-boiled egg*** я́йка ўсьмя́тку

**soft drink** безалькагóльны напóй

**soften** [ˈsɔ:fən] – v.t. 1. зьмякчáць. 2. памякчáць, зьмякчáць (*боль, прысýд, сьвятлó абажýрам*). 3. прыцішáць (*гóлас*)

– v.i. 1. зьмякчáцца, памякчáцца. 2. прыцішáцца
**softly** [ˈsɔ:ftli] adv. паціху, ціха
**softness** [ˈsɔ:ftnəs] n. мя́ккасьць *f.*; лагóда *f.*, лагóднасьць; далікáтнасьць; слáбасьць *f.* (*харáктару*)
**soft-spoken** [ˌsɔ:ftˈspoukən] adj. 1. лагóдны; які ціха, спакóйна гавóрыць. 2. паціху, лагóдна сказáны
**soft spot** слабóе, мяккóе мéсца
**software** [ˈsɔ:ftwer] n., Comput. прагрáмнае забесьпячэ́ньне
**softy** [ˈsɔ:fti] n., pl. **softies,** Informal мяккацéлы, якóга лёгка абдуры́ць
**soggy** [ˈsɑ:gi] adj. 1. прамóклы, мóкры. 2. адсырэ́лы, сыры́: ***soggy day*** сыры́ дзень
**soil I** [sɔɪl] n. глéба, зямля́ *f.*, грунт -у *m.*: ***A farmer tills the soil*** Земляро́б абрабля́е зямлю́. 2. край -ю *m.*; краíна *f.*
**soil II** [sɔɪl] – v.t. 1. брýдзіць, пэ́цкаць: ***He soiled his clean clothes*** Ён запэ́цкаў сваю́ чы́стую вóпратку. 2. пля́міць. 3. Figur. пля́міць, гáньбіць: ***to soil the family name*** згáньбіць імя́ сям'í. 4. марáльна псавáць
– n. забрýджанае мéсца, пля́ма *f.*
**soiled** [sɔɪld] n. adj. запэ́цканы, папэ́цканы, забрýджаны
**sol** [sɑ:l] *гс.* **so** соль (*нóта*)
**solace** [ˈsɑ:lɪs] – n. 1. суцяшэ́ньне, заспакаéньне *n.* 2. уцéха *f.*, заспакаéньне *n.*
– v.t. суцяшáць, супакóйваць
**solar** [ˈsoulər] adj. 1. сóнца: ***a solar eclipse*** зацьмéньне сóнца. 2. сóнечны: а) ***solar heat*** сóнечнае цяплó. б) ***a solar year*** сóнечны год (*каля́ 365 дзён*)
**solar system** сóнечная сыстэ́ма
**sold** [sould] v., *p.t. and p.p. of* **sell**
**solder** [ˈsɑ:dər] – n. 1. прыпóй -ю *m.* 2. Figur. зьяднáльнік -а *m.*; усё, што злучáе, змацóўвае
– v. пая́ць; літавáць, зьлітóўваць, прылітóўваць
**solderer** [ˈsɑ:dərər] n. пая́льнік, літавáльнік -а *m.*
**soldier** [ˈsouldʒər] – n. 1. жаўнéр, салдáт -а *m.* 2. вайскавíк -á, вайскóвец -ўца *m.*
– v.i. служы́ць у вóйску
**soldierly** [ˈsouldʒərli] adj. 1. жаўнéрскі, салдáцкі. 2. з вайскóвай вы́праўкай
**soldiery** [ˈsouldʒəri] n. 1. вóйска *n.*; жаўнéры, салдáты, ваéнныя *coll.* 2. ваéннае майстэ́рства
**sole I** [soul] adj. 1. адзíн, адзíны: ***the sole heir*** адзíны спадкаéмца. 2. тóлькі: ***We three were the sole survivors*** Мы тóлькі трох засталíся жывы́я. 3. вылýчны, не для ўсіх: ***the sole right of use*** вылýчнае прáва на карыстáньне. 4. адзінóчны: ***a sole undertaking*** адзінóчнае пачынáньне
**sole II** [soul] – n. 1. падэ́шва *f.* (*нагí*). 2. падэ́шва чаравíка, бóта; паднóсак -ка *m.*, стапá *f.* 3. Tech. дно *n.*, аснóва *f.*
– v.t. падбівáць падэ́швы
**sole III** [soul] n. кáмбала *f.* (*ры́ба*)
**solemn** [ˈsɑ:ləm] adj. 1. павáжны: ***a solemn face*** павáжны твар. 2. фармáльны, урачы́сты: ***to take a solemn oath*** урачы́ста прысягнýць; ***solemn music*** урачы́стая мýзыка
**solemnity** [səˈlemnəti] n., pl. **-ties** павáжлівасьць, урачы́стасьць, вéлічнасьць, імпазáнтнасьць *f.*
• ***solemnities*** урачы́стасьць *f.*, урачы́сты цырыманія́л
**solemnize** [ˈsɑ:ləmnaɪz] v.t. 1. урачы́ста сьвяткавáць, адзначáць. 2. адпраўля́ць, служы́ць (*імшý, багаслýжбу*): ***The marriage was solemnized in the cathedral*** Шлюб адбы́ўся ў катэ́дры
**solemnly** [ˈsɑ:ləmli] adv. павáжна; урачы́ста; фармáльна, афіцы́йна
**solicit** [səˈlɪsɪt] v.t. 1. прасíць, упрóшваць, папрашáйнічаць. 2. заклікáць: ***to solicit for contributions*** заклікáць да дапамóгі ахвяравáньнямі. 3. угавóрваць
**solicitation** [səˌlɪsɪˈteɪʃən] n. 1. упрóшваньне *n.*; прóсьба *f.*, зáклік -у *m.* 2. падгавóрваньне, нагавóрваньне *n.*

**solicitor** [sə'lɪsətər] n. 1. про́сьбіт -а *m.*, про́сьбітка *f.*; хада́йнік -а *m.*, хада́йніца *f.* 2. адвака́т, юрыско́нсульт -а *m.*

**solicitude** [sə'lɪsɪtu:d] n. руплі́васьць *f.*; турбо́та *f.*; хо́даньне *n.*

**solid** ['sɑ:ləd] – adj. 1. цьвярды́, цьвёрды: ***Water becomes solid when it freezes*** Вада́ пры замярза́ньні цьвярдзе́е. 2. мо́цны, трыва́лы: ***a man of solid build*** чалаве́к салі́днай будо́вы. 3. суцэ́льны: ***The cloth is a solid blue*** Ткані́на аднаго́ сі́няга ко́леру. 4. пава́жны, грунто́ўны (*пра вывуча́ньне, дасьле́даваньне*). 5. усто́йлівы, пава́жны, салі́дны: ***a solid citizen*** пава́жны грамадзяні́н. 6. фіна́нсава мо́цны (*пра прадпрые́мства*). 7. цэ́лы: ***I waited three solid hours*** Я чака́ў цэ́лыя тры гадзі́ны. 8. Math. трохвыме́рны. 9. Sl. до́бры, дасканáлы; першакля́сны
– adv. аднагало́сна: ***to vote solid*** галасава́ць аднагало́сна
– n. 1. цьвёрдае це́ла. 2. Math. геамэтры́чнае це́ла
• ***solid ground*** мо́цная, салі́дная асно́ва

**solidarity** [ˌsɑ:lə'dærəti] n. салідáрнасьць *f.*

**solid geometry** стэрэамэ́трыя *f.*

**solidify** [sə'lɪdɪfaɪ] v. 1. рабі́ць цьвёрдым; цьвярдзе́ць, застыва́ць; згушча́ць, згушча́цца. 2. гуртава́цца. 3. крышталізава́ць (-ца)

**solidity** [sə'lɪdəti] n., pl. **-ties** цьвёрдасьць *f.*

**solitary** ['sɑ:ləteri] – adj. 1. сам; само́тны, адзіно́кі, адзі́ны: ***A solitary rider was seen in the distance*** Само́тны ве́ршнік віднéўся ўда́лечы. 2. само́тны; адасо́блены: ***to lead a solitary life*** ве́сьці само́тнае жыцьцё; ***a solitary spot*** адасо́бленае ме́сца
– n. 1. само́тнік -а *m.*, само́тніца *f.* 2. адзіно́чка *f.*: ***The prisoner was put in solitary*** Вя́зьня пасадзі́лі ў адзіно́чку

**solitude** ['sɑ:lətu:d] n. 1. само́та, адзіно́та *f.* 2. адасо́бленае ме́сца. 3. само́тнасьць, адзіно́касьць *f.*

**solo** ['soʊloʊ] – n., pl. **-los** Mus. со́ла, *indecl.*; со́льны ну́мар
– adj. 1. со́льны: ***a solo part*** со́льная па́ртыя. 2. адзіно́чны, самасто́йны: ***a solo flight*** самасто́йны палёт

**soloist** ['soʊloʊɪst] n. салі́ст -а *m.*, салі́стка *f.*

**so long**, Informal паку́ль што; быва́й

**solubility** [ˌsɑ:ljə'bɪləti] n., pl. **-ties** 1. растварáльнасьць, распушчáльнасьць *f.*: ***the solubility of sugar in water*** распушчáльнасьць цу́кру ў вадзé. 2. вырашáльнасьць *f.* (*задáчы, пытáньня, цяжкасьця́ў*)

**soluble** ['sɑ:ljəbəl] adj. 1. растварáльны, распушчáльнасьць: ***Salt is soluble in water*** Соль распушчáецца ў вадзé. 2. вырашáльны: ***The problem is hard but soluble*** Задáча цяжкáя, але вырашáльная

**solute** ['sɑ:lju:t] n. раство́р -у *m.*

**solution** [sə'lu:ʃən] n. 1. вырашэ́ньне *n.* (*пытáньня, праблéмы*), разьвязáньне *n.*, разьвя́зка *f.* (*задáчы*); высьвятлéньне *n.*: ***The police are seeking a solution of the crime*** Палі́цыя шукáе высьвятлéньня злачы́нства. 2. распушчáньне *n.* 3. раство́р -у *m.*

**solvable** ['sɑ:lvəbəl] adj. 1. вырашáльны. 2. растварáльны, распушчáльны

**solve** [sɑ:lv] v.t. 1. высьвятля́ць, выясьня́ць; раскрывáць (*таямні́цу*). 2. разьвя́зваць (*задáчу*)

**solvent** ['sɑ:lvənt] – adj. 1. растварáльны, распушчáльны. 2. платаздо́льны: ***A bankrupt firm is not solvent*** Збанкрутавáная фі́рма не платаздо́льная
– n. растварáльнік -а *m.*

**somber**, Brit. **sombre** ['sɑ:mbər] adj. 1. цёмны, змро́чны, пану́ры. 2. су́мны, марко́тны

**some** [sʌm] – adj. 1. некато́ры: ***Some people sleep more than others*** Некато́рыя лю́дзі сьпяць больш за і́ншых. 2. нéкалькі, ко́лькі: ***some years ago*** ко́лькі гадо́ў таму́. 3. нéйкі, які́сьці; які́: ***some boys have taken it*** нéйкія хлапцы́ забрáлі гэ́та. 4. каля́: ***Some***

***twenty people saw it*** Каля́ дваццацёх чалавéк бáчыла гэ́та

– pron., adv. 1. некатóры: ***Some think so*** Некатóрыя дýмаюць так. 2. крыхý: ***He ate some and threw the rest away*** Ён зьеў крыхý, а рэ́шту вы́кінуў; ***She is some better today*** Ёй крыхý лепш сёньня

**somebody** [ˈsʌmˌbɑ:di] – pron., n., pl. **bodies** нéхта, хтóсьці, хто-нéбудзь

– n. нéхта (*вáжны*): ***She acts as if she were somebody*** Янá трымáецца, бы́ццам янá нéхта вáжны

**someday** [ˈsʌmdeɪ] adv. нéкалі, калі́сьці, калі-нéбудзь

**somehow** [ˈsʌmhaʊ] adv. нéяк, як-нéбудзь

• ***somehow or other*** так ці інáкш

**someone** [ˈsʌmwʌn] pron., нéйкая асóба, нéхта

**somersault** [ˈsʌmərsɔ:lt] – n. куля́ньне, паракýльваньне *n.*, сáльта, *indecl., n.*

– v.i. куля́цца, перакýльвацца

**something** [ˈsʌmpθɪŋ] – pron. 1. нéшта, штосьці, штось: ***He has something on his mind*** Ён мáе нéшта на дýмцы. 2. чáстка, крыхý: ***There is something of her mother in her smile*** У éйнай усьмéшцы ёсьць нéшта мáтчынага. 3. нéшта (*вáжнае*): ***He thinks he's something*** Ён дýмае, што ён нéшта асаблі́вае. 4. нéшта накшталт: ***He was something of a painter*** Ён быў да пэ́ўнай мéры мастакóм

– adv. крыхý, кры́шку: ***something like*** крыхý падóбны

**sometime** [ˈsʌmtaɪm] – adv. 1. нéкалі, калі́-кóлечы, калі́-нéбудзь: ***Come over sometime*** Захóдзь калі́-нéбудзь. 2. нéкалі, нéдзе: ***It happened sometime last March*** Гэ́та здáрылася нéдзе лéтась у сакавікý

– adj. кóлішні, былы́: ***a sometime pupil of the school*** кóлішні вýчань гэ́тае шкóлы

**sometimes** [ˈsʌmtaɪmz] adv. час-часóм; чáсам, часáмі: ***He comes to visit sometimes*** Ён чáсам прыхóдзіць у адвéдкі

**someway** [ˈsʌmweɪ] adv. нéяк

**somewhat** [ˈsʌmhwɔ:t] – adv. да пэ́ўнай ступéні; дóсыць: ***It is somewhat difficult*** Гэ́та дóсыць ця́жка

– n. нéшта, сёе-тóе

**somewhere** [ˈsʌmhwer] adv. 1. нéдзе, дзе-нéбудзь, дзéсьці: ***somewhere in the neighborhood*** нéдзе ў суcéдзтве; ***somewhere else*** нéдзе ў íншым мéсцы. 2. нéкуды, кýды́сьці: ***He went somewhere*** Ён нéкуды пайшóў. 3. нéдзе, нéкалі: ***It happened somewhere in the last century*** Гэ́та адбылóся нéдзе ў мінýлым стагóдзьдзі

**son** [sʌn] n. сын -а *m.*, сынlóк -кá *m.*

• ***Son*** Ісýс Хрыстóс

**sonant** [ˈsoʊnənt] – adj. гýчны, санóрны

– n. санóрны зы́чны

**song** [sɔ:ŋ] n. 1. пéсьня *f.* 2. сьпеlў -ву *m.*: ***to burst into song*** засьпявáць, залі́цца сьпéвам

**songbird** [ˈsɔ:ŋbɜ:rd] n. 1. пéўчая птýшка. 2. Informal пяю́ньня *f.*

**songless** [ˈsɔ:ŋləs] adj. няпéўчы, бяз сьпéву

**Song of Songs**, Bibl. Пéсьня Пéсьняў

**sonic** [ˈsɑ:nɪk] adj. 1. гукавы́; акусты́чны. 2. з хýткасьцю гýку, які́ мáе хýткасьць гýку

**sonic mine** акусты́чная мі́на

**soniferous** [səˈnɪfərəs] adj. 1. які́ перадаé *абó* вытварáе гук. 2. гýчны

**son-in-law** [ˈsʌnɪnˌlɔ:] n. зяцlь -я *m.*

**sonnet** [ˈsɑ:nət] n. санэ́т -у *m.*

**sonny** [ˈsʌni] n., pl. **-nies** сынlóк, сынóчlак -ка *m.*

**sonority** [səˈnɔ:rəti] n. 1. звóнкасьць, гýчнасьць *f.* 2. напы́шлівасьць, высакамóўнасьць *f.* (*сты́лю*)

**sonorous** [səˈnɔ:rəs] adj. 1. гýчны, звóнкі. 2. мілагýчны. 3. напы́шлівы, высакамóўны: ***sonorous phrases*** напы́шлівыя фрáзы

**soon** [su:n] adv. 1. неўзабáве, зáраз: ***I will see you again soon*** Неўзабáве мы зноў убáчымся. 2. хýтка: ***as soon as possible*** як магá хутчэ́й; пры пéршай нагóдзе; ***Why have you come so***

***soon?*** Чаму́ ты прыйшо́ў так ху́тка?; ***I'll be back soon*** Я за́раз вярну́ся; ***I had (***or ***would) sooner ...*** Я хутчэ́й хаце́ў бы ... 3. як то́лькі: ***As soon as I hear, I will let you know*** Як то́лькі пачу́ю, я вам скажу́
**soot** [sʊt] – n. са́жа *f.*
– v.t. закапці́ць, задымі́ць або́ закуро́дыміць
– v.i. закапці́цца, задымі́цца
**soothe** [su:ð] v.t. 1. супако́йваць, суцяша́ць; суніма́ць (*ад пла́чу*). 2. аблягча́ць, залаго́джваць (*боль*)
**soother** [ˈsu:ðər] n. пусты́шка *f.* (*со́ска*)
**sooty** [ˈsʊti] adj. 1. пакры́ты са́жай, закурэ́лы, заку́раны, закуро́дымлены. 2. цёмна-руды́ *або́* чо́рны (*як са́жа*)
**sophist** [ˈsɑ:fəst] n. сафі́ст -а *m.*
**sophistic** [səˈfɪstɪk] adj. сафісты́чны
**sophisticate** [səˈfɪstɪkeɪt] – v.t. 1. рабі́ць быва́лым, дасьве́дчаным. 2. уво́дзіць у зман; перакру́чваць фа́кты, займа́цца сафі́стыкай. 3. рабі́ць больш склада́ным, эфэкты́ўным (*пра машы́ну, інструмэ́нт*)
– n. [səˈfɪstɪkət] быва́лы, дасьве́дчаны, вы́танчаны чалаве́к
**sophisticated** [səˈfɪstɪkeɪtɪd] adj. 1. быва́лы, жыцьцёва дасьве́дчаны, сьве́цкі. 2. вы́танчаны, рафінава́ны: ***sophisticated humor*** вы́танчаны гу́мар. 3. які́ ўво́дзіць у зман, фальшы́вы. 4. склада́ны, даскана́лы: ***a sophisticated missile*** найнаве́йшая ўдаскана́леная ракета
**soprano** [səˈprænoʊ] n., pl. **-pranos** сапра́на, *indecl.* дыска́нт -у *m.*
**sorb** [sɔ:rb] n. рабі́на *f.* (*дрэ́ва і плод*)
**Sorbs** [sɔ:rbz] n. со́рбы, лужыча́не *pl.*
**sordid** [ˈsɔ:rdəd] adj. 1. бру́дны, чо́рны. 2. по́длы, ні́зкі, нікчэ́мны 3. прагаві́ты; кары́сьлівы; эгаісты́чны
**sore** [sɔ:r] – adj. 1. балю́чы: а) ***a sore finger*** балю́чы па́лец. б) ***I have a sore throat*** Мне́ балі́ць го́рла. в) ***sore feet*** наму́ляныя но́гі. 2. засму́чаны, засмучо́ны; прыгне́чаны: ***with sore heart*** зь цяжкі́м сэ́рцам, з бо́лем у сэ́рцы. 3. гняўлі́вы; абра́зьлівы; зласьлі́вы. 4. Informal абра́жаны; злы, знэрвава́ны: ***He is sore at missing the game*** Ён злуе́цца, што ня ня тра́піў на гульню́. 5. пры́кры, балю́чы, хвалю́ючы: ***a sore subject*** балю́чае пыта́ньне
– n. 1. баля́чка, бо́лька, ра́на *f.* 2. прычы́на бо́лю, журбы́, сму́тку, зло́сьці
**sorority** [səˈrɔ:rəti] n., pl. **-ties** 1. сястры́цтва *n.* 2. жано́чы *або́* дзяво́чы клюб *або́* тава́рыства. 3. карпара́цыя студэ́нтак
**sorrel I** [ˈsɔ:rəl] n. шча́ўе *n.*
**sorrel II** [ˈsɔ:rəl] – adj. гне́ды, гняды́, цёмна-ры́жай ма́сьці
– n. гняд|ы́ -о́га *m.* (*конь*)
**sorrow** [ˈsɔ:roʊ] – n. 1. сму́т|ак -ку *m.*; журбо́та, марко́та *f.*, засмучэ́ньне *n.*; скру́ха *f.*: ***with sorrow*** са скру́хай, скру́шліва. 2. го́ра *n.*, кло́паты *pl.*, паку́та *f.*: ***Her sorrows have aged her*** Ейнае го́ра й паку́ты саста́рылі яе́
– v.i. 1. смуткава́ць, журы́цца па *кі́мчым.* 2. бедава́ць, тужы́ць
**sorrowful** [ˈsɔ:rəfəl] adj. 1. сму́тны, засму́чаны, марко́тны, журбо́тны: ***to be sorrowful*** марко́ціцца. 2. пры́кры, паку́тлівы, цяжкі́
**sorry** [ˈsɑ:ri] adj. 1. спага́длівы; засму́чаны, су́мны: ***(I am) so sorry*** вы́бач; ***I am sorry that you are sick*** Спачува́ю табе́, што ты хво́ры; ***I am sorry to say he is ill*** Ён, на жа́ль, хво́ры; ***I feel sorry for him*** Мне яго́ шкада́; ***You will be sorry for this some day*** Вы не́калі гэ́тага пашкаду́еце. 2. дрэ́нны, благі́; убо́гі; жа́лю ва́рты: ***to come to a sorry end*** дрэ́нна ско́нчыць; ***a sorry sight*** жа́ласнае відо́вішча
**sort** [sɔ:rt] – n. 1. род, сорт, від, разра́д -у, гату́н|ак -ку *m.*: ***What sort of work does he do?*** Які́ род пра́цы ён выко́нвае? 2. хара́ктар -у *m.*; я́касьць *f.*; нату́ра *f.*: ***He is not my sort*** Ён не ў маі́м гу́сьце; ***He is a good sort*** Ён до́бры хло́пец
– v.t. аддзяля́ць, разьдзяля́ць, сартава́ць, выбіра́ць, адбіра́ць: ***The farmer***

***sorted out the best apples for eating*** Гаспадáр вы́браў найлéпшыя я́блыкі для яды́
• ***of sorts*** так сабé
• ***out of sorts*** не зусíм здарóвы, не ў гумóры
• ***sort of,*** Informal да пэ́ўнай ступéні; крыху́: ***We sort of knew it*** У нéйкай ступéні мы вéдалі пра гэ́та
**sorter** [ˈsɔːrtər] n. сартавáльнік -а *m.*
**sorting room** сартавáльня *f.*
**so-so** [ˈsoʊsoʊ] – adj. нíштó сабé, так сабé
– adv. так-сяк; магчы́ма
**sought** [sɔːt] v., *p.t. or p.p. of* **seek**
**sought-after** [ˈsɔːtˌæftər] adj. хóдкі (*пра тавáр*); папуля́рны
**soul** [soʊl] n. 1. душá *f.* 2. асóба *f.*, чалавéк -а *m.*: ***Don't tell a soul*** Не кажы́ нікóму; ***the poor little soul*** нябóг|а, небарáк|а -і *m.&f.* 3. увасаблéньне *n.*: ***He is the soul of honor*** Ён — ўвасаблéньне гóнару
• ***Upon my soul!*** Слóва гóнару! Дальбóг!
**soulless** [ˈsoʊlləs] adj. бязду́шны
**sound I** [saʊnd] – n. 1. гук -у *m.*; гóман, шум -у *m.*, кры́кі *pl.*, гáлас -у *m.*: ***a vowel sound*** галóсны гук. 2. мяжá чу́тнасьці гóману, шу́му: ***within sound*** у мéжах чу́тнасьці
– v.i. 1. гучэ́ць: ***It sounds like thunder*** Гучы́ць як гром. 2. трубíць (*пра трубу́*). 3. вымаўля́цца
– v.t. 1. вымаўля́ць, выкáзваць: ***Sound each syllable*** Вымаўля́й кóжны склад; ***The "h" in "hour" is not sounded*** У слóве "hour" h не вымаўля́ецца; ***Everyone sounded his praises*** Усé выкáзвалі пахвалу́. 2. гучэ́ць: ***His excuse sounds queer*** Ягóнае апраўдáньне гучы́ць дзíўна; ***to sound alarm*** узьнімáць трывóгу
**sound II** [saʊnd] – adj. 1. здарóвы; мóцны; цэ́лы, непашкóджаны: ***sound health*** мóцнае здарóўе; ***sound sleep*** мóцны, здарóвы сон. 2. цьвёрды, цьвярды́, грунтóўны: ***sound structure*** грунтóўная будóва; ***sound knowledge*** грунтóўныя вéды
– adv. мóцна, грунтóўна: ***sound asleep*** мóцна заснýўшы
**sound III** [saʊnd] – v. 1. зандавáць, а) мéраць глыбíню́ вады́ лóтам. б) дасьлéдаваць рáну зóндам. в) дасьлéдаваць грунт зóндам. 2. разьвéдваць, распы́тваць. 3. заглыбля́цца, нырáць: ***The whale sounded*** Кіт нырну́ў углы́б
– n. зонд -а *m.*
**sound IV** [saʊnd] n. 1. пралíў -ву *m.*, пратóка *f.* 2. плáвальны пухíр (*у ры́бы*)
**sound effects** гукавы́я эфэ́кты (*у тэáтры, фíльме, рáдыё*)
**soundless** [ˈsaʊndləs] adj. 1. бязгу́чны. 2. бяздóнны
**soundproof** [ˈsaʊnpruːf] – adj. гуканепранікáльны
– v.t. рабíць гуканепранікáльным
**sound track** гукавáя дарóжка
**sound waves** гукавы́я хвáлі
**soup** [suːp] n. 1. суп -у *m.* 2. ***clear soup*** пóліўка *f.*
• ***in the soup,*** Informal у клóпаце, у цяжкíм станóвішчы
**sour** [saʊr] – adj. 1. кíслы: ***sour cream*** сьмятáна *f.* 2. скíслы, пракíслы; сапсу́ты (*пра суп, вінó*). 3. з кíслым *абó* ёлкім пáхам. 4. Figur. зласьлíвы; злóсны; не ў настрóі: ***a sour face*** кíслая мíна
– v.i. 1. кíснуць, скісáць (*пра малакó*). 2. кíснуць (*псавáцца, пра вінó, суп*) 3. быць не ў настрóі, рабíцца зласьлíвым
• ***sour weather*** нéпагадзь
**source** [sɔːrs] n. 1. вытóк -у *m.* (*ракí, ручая́*); кры́ніца *f.* 2. кры́ніца інфармáцыі, вéдаў
**south** [saʊθ] – n. пóўдзень пóўдня *m.*
– adj. паўдзённы, паўднёвы: ***a south wind*** паўдзённы вéцер; ***the south window*** акнó, якóе выхóдзіць на пóўдзень
– adv. на пóўдзень: ***The journey south took two days*** Падарóжжа на пóўдзень занялó два дні
• ***South*** паўдзённая чáстка краю

• ***south of*** на паўдзённым баку́ мяжы́

**south-bound** [ˈsaʊθbaʊnd] adj. які́ ру́хаецца ў паўдзённым кіру́нку

**southeast** [ˌsaʊθˈi:st] n. паўдзённы ўсхо́д

**southeasterly** [ˌsaʊθˈi:stərli] adj., adv. паўдзённа-ўсхо́дні; на паўдзённы ўсхо́д; з паўдзённага ўсхо́ду

**southeastern** [ˌsaʊθˈi:stərn] adj. паўдзённа-ўсхо́дні: ***a southeastern wind*** паўдзённа-ўсхо́дні ве́цер

**southeastward(s)** [ˌsaʊθˈi:stwərdz] adv. у паўдзённа-ўсхо́днім кіру́нку

**souther** [ˈsʌðər] n. паўдзённы ве́цер *або́* навальні́ца

**southern** [ˈsʌðərn] adj. паўдзённы: ***the southern side of a building*** паўдзённы бок буды́нку; ***southern countries*** паўдзённыя краі́

**southerner** [ˈsʌðərnər] n. жыха́р по́ўдня

**South Pole** Паўдзённы по́люс

**southward** [ˈsaʊθwərd] – adj. паўдзённы
– adv. на по́ўдзень
– n. паўдзённы кіру́нак, бок *або́* пункт

**southward(s)** [ˈsaʊθwərdz] adv. на по́ўдзень

**southwest** [ˌsaʊθˈwest] n. паўдзённы за́хад

**southwesterly** [ˌsaʊθˈwestərli] adj., adv. 1. на паўдзённы за́хад. 2. з паўдзённага за́хаду

**southwestern** [ˌsaʊθˈwestərn] adj. паўдзённа-захо́дні

**southwestward** [ˌsaʊθˈwestwərd] – adj. паўдзённа-захо́дні
– adv. на паўдзённы за́хад
– n. паўдзённы за́хад

**souvenir** [ˌsu:vəˈnɪr] n. па́мятка *f.*, па́мятны падару́нак, сувэні́р -а *m.*

**sovereign** [ˈsɑ:vrən] – n. 1. ўлада́р -а́, мана́рх, сувэрэ́н -а *m.* (*каро́ль, цар, імпэра́тар, хан і г.д.*). 2. сувэрэ́н (*брыта́нская залата́я манэ́та*)
– adj. 1. сувэрэ́нны, незале́жны. 2. найвышэ́йшы, найбо́льшы. 3. дасканы: ***a sovereign cure for colds*** дасканы́я ле́кі ад прасту́ды

**sovereignty** [ˈsɑ:vrənti] n., pl. **-ties** 1. найвышэ́йшая ўла́да *або́* аўтарытэ́т. 2. ранг, ула́да й кампэтэ́нцыя ўладара́. 3. сувэрэ́ннасьць *f.*, сувэрэні́тэт *m.*

**soviet** [ˈsoʊviət] – n. саве́т -у *m.* (*у дачыне́ньні да было́га СССР*): ***village soviets*** се́льскія саве́ты, сельсаве́ты; ***town soviets*** гарадзкія саве́ты, гарсаве́ты; ***Supreme Soviet*** Вярхо́ўны Саве́т
– adj. ***Soviet*** саве́цкі: ***the Soviet Union*** Саве́цкі Саю́з

**sow I** [soʊ] v.t. **sowed, sown** or **sowed, sowing** 1. се́яць, засе́йваць: ***He sows more wheat than oats*** Ён се́е пшані́цы больш, чым аўса́; ***The farmer sowed the field with oats*** Фа́рмэр засе́яў по́ле аўсо́м. 2. се́яць, расьсява́ць, раскіда́ць; пашыра́ць: ***to sow (the seeds of) dissention*** се́яць нязго́ду

**sow II** [saʊ] n. сьвіньня́, сьвінама́тка *f.*, паро́сная сьвіньня́

**sower** [ˈsoʊər] n. 1. се́йбіт -а *m.*, сяве́ц сяўца́ *m.* 2. се́ялка *f.*

**sowing** [ˈsoʊɪŋ] – n. сяўба́ *f.*, се́яньне, засява́ньне *n.*
– adj.: ***sowing time*** час сяўбы́

**sown** [soʊn] v., *p.p. of* **sow I**

**soy** [sɔɪ] or **soya** [ˈsɔɪə] esp. Brit. n., со́я *f.*

**soybean** [ˈsɔɪbi:n] n. со́евыя бабы́

**space** [speɪs] – n. 1. прасто́р -у *m.*, прасто́ра *f.*, абша́р, абся́г -у *m.* 2. ме́сца *n.*: ***We have plenty of space in our house*** У на́шым до́ме шмат ме́сца. 3. стая́нка *f.*: ***a parking space*** паркава́льная стая́нка. 4. ко́смас -у *m.*: ***outer space*** касьмі́чная прасто́ра. 5. працяг ча́су: ***for the space of ten years*** на працягу́ дзесяці́ гадо́ў. 6. адсту́п, прабе́л -у *m.*
– v.t. разьдзяля́ць, аддзяля́ць, рабі́ць адсту́пы памі́ж сло́вамі: ***Space your words evenly when you write*** Пі́шучы, рабі́ ро́ўныя адсту́пы памі́ж сло́вамі

**spaceman** [ˈspeɪsmæn] n., pl. **-men** астрана́ўт -а *m.*; касмана́ўт -а *m.*

**space rocket** касьмі́чная раке́та

**spaceship** [ˈspeɪsʃɪp] n. касьмі́чны караб́ель

**spacious** [ˈspeɪʃəs] adj. 1. прасто́рны, вялі́кі; зьмяшча́льны, ёмісты. 2. вялі́зны, шыро́кі

**spade I** [speɪd] – n. рыдлёўка *f.*
– v.t. капа́ць рыдлёўкаю
*• **call a spade a spade*** называ́ць рэ́чы сваі́мі імёнамі

**spade II** [speɪd] n. ві́ны, пі́кі (*у ка́ртах*)

**spam** [spæm] n. няпро́шаная і непажада́ная электро́нная по́шта, спам -у *m.*

**span I** [spæn] – n. 1. пя́дзя *f.* 2. адле́гласьць памі́ж апо́рамі, прамéжак, пралёт -у *m.*: ***the bridge in three spans*** мост у тры пралёты. 3. адрэ́зак ча́су: ***Some animals have a short lifespan*** Некато́рыя жывёлы жыву́ць ко́ратка. 4. разма́х -у *m.*: ***wing span*** разма́х кры́лаў. 5. дыяпазо́н -у *m.*
– v.t. 1. мéраць пя́дзяй. 2. абхапі́ць руко́ю та́лію *або́* запя́сьце рукі. 3. ***to span a river with a bridge*** пабудава́ць мост праз раку́

**span II** [spæn] n. па́ра ко́ней, вало́ў

**Spaniard** [ˈspænjərd] n. гішпа́н|ец -ца *m.*, гішпа́нка *f.*

**Spanish** [ˈspænɪʃ] – adj. гішпа́нскі
– n. 1. гішпа́нцы *pl.* 2. гішпа́нская мо́ва

**Spanish onion** гішпа́нская цыбу́ля

**spank I** [spæŋk] – v.t. шлёпаць (*дзіця́*), лупцава́ць
– n. шлёпан|ец -ца, пляска́ч плескача́ *m.*

**spanking** [ˈspæŋkɪŋ] n. лупцо́ўка *f.*, лупцава́ньне *n.*

**spare** [sper] – v.t. 1. лі́таваць, шкадава́ць; зьлі́тавацца: ***He spared his enemy*** Ён зьлі́таваўся над сваі́м во́рагам. 2. берагчы́, ашчаджа́ць, шкадава́ць: ***We walked uphill to spare the horse*** Мы ішлі́ пад гару́, каб аблягчы́ць каня́. 3. абыхо́дзіцца без *чаго́*: ***Father couldn't spare the car, so John had to walk*** Ба́цька ня мог абысьці́ся бяз а́ўта, дык Янка му́сіў ісьці́ пехато́ю. 4. пакіда́ць: ***Spare some time for reading*** Пакі́нь кры́ху ча́су на чыта́ньне
– adj. 1. во́льны: ***spare time*** во́льны час. 2. запасны́, лі́шні: ***a spare tire*** запасна́я шы́на; ***spare money*** лі́шнія гро́шы. 3. худы́, хударля́вы
– n. запасн|ы́ -о́га *m.*

**spareribs** [ˈsperrɪbz] n., pl. сьвіна́я рабры́нка

**spark** [spɑ:rk] – n. 1. і́скра *f.* 2. про́бліск -у *m.*: ***a spark of light*** про́бліск сьвятла́. 3. Figur. ка́ліва *n.*: ***He had not a spark of interest*** Ён ня меў ні ка́ліва зацікаўле́ньня
– v.i. іскры́цца, дава́ць і́скры
– v.t. 1. запа́льваць і́скрай. 2. Figur. узбуджа́ць (*запа́л, акты́ўнасьць*)

**sparkle** [ˈspɑ:rkəl] – v.i. 1. іскры́цца: ***The fireworks sparkled*** Фаерве́ркі іскры́ліся. 2. зіхаце́ць, зьзяць: ***The diamonds sparkled*** Дыя́манты зьзя́лі. 3. шыпе́ць, пе́ніцца
– n. 1. і́скра *f.* 2. бляск -у *m.* 3. блі́ску́часьць *f.*; жы́васьць, жва́васьць *f.*

**sparkling** [ˈspɑ:rklɪŋ] adj. 1. бліску́чы, зіхатлі́вы. 2. шыпу́чы; іскры́сты: ***sparkling wine*** шыпу́чае віно́

**spark plug** [ˈspɑ:rkplʌg] 1. запа́льная сьве́чка. 2. Informal натхня́льнік, завада́тар

**sparrow** [ˈspærou] n. вераб|е́й -б'я́ *m.*

**sparse** [spɑ:rs] adj. 1. рэ́дкі, раскі́нуты: ***sparse population*** рэ́дкае жыха́рства. 2. недастатко́вы; бе́дны, мізэ́рны: ***a sparse diet*** мізэ́рнае харчава́ньне

**sparsity** [ˈspɑ:rsəti] n. рэ́дкасьць *f.*

**spasm** [ˈspæzəm] n. спа́зма *f.*

**spasmodic** [spæzˈmɑ:dɪk] adj. су́таргавы, спазматы́чны: ***a spasmodic cough*** спазматы́чны ка́шаль: ***spasmodic movements*** су́таргавыя ру́хі

**spat** [spæt] v., *p.p., p.t. of* **spit**

**spatial** [ˈspeɪʃəl] adj. прасто́равы

**spatter** [ˈspætər] – v.t. 1. расплю́хваць: ***to spatter mud*** расплю́хваць гразь. 2. пасячы́, зрашаці́ць: ***Bullets spattered the wall*** Ку́лі зрашаці́лі сьцяну́. 4. Figur. абкі́дваць бало́там, гра́зьзю: узво́дзіць паклёп

– v.i. 1. расплю́хвацца: ***Rain spatters on the sidewalk*** Дождж расплю́хваецца на тратуа́ры
– n. ля́скат -у *m.*: ***a spatter of bullets*** град ку́ляў. 2. плю́скат -у *m.* (*дажджу́*). 3. пы́рскі; пля́мы ад пы́рскаў

**spatula** [ˈspætʃələ] n. лапа́тачка *f.*, шпа́тэл|ь -я *m.*

**spawn** [ˈspɔːn] – n. 1. ікра́ *f.* 2. вы́вад|ак -ка *m.* (*зь ікры́*); пло́йма *f.* 3. вы́рад|ак -ка, вы́плад|зень -ня *m.*; спараджэ́ньне *n.*
– v.i. 1. нераставáць, кла́сьці ікру́. 2. пладзі́цца, развóдзіцца, размнажа́цца
– v.t. пладзі́ць (*пра людзе́й — грэ́бліва*), развóдзіць

**spawning season** не́раст -у *m.*

**spay** [speɪ] v.t. абясплóджваць (*ко́тку або́ су́чку*)

**speak** [spiːk] v.i. **spoke, spoken** 1. гавары́ць. 2. выступа́ць з прамóвай, прамаўля́ць: ***Who is going to speak at the meeting?*** Хто бу́дзе прамаўля́ць на схóдзе? 3. гавары́ць, размаўля́ць: ***Do you speak French?*** Ці ты гавóрыш па-францу́ску?
• ***so to speak*** так сказа́ць, так сказа́ўшы, так бы мóвіць
• ***speak for*** гавары́ць ад *чыйго́* імя́, прадстаўля́ць *каго́*
• ***speak of*** гавары́ць аб кі́м-чым
• ***speak out*** or ***up*** а) гавары́ць гу́чна й выра́зна. б) гавары́ць свабóдна, нічóга не замóўчваючы
• ***speak well for*** гавары́ць прыхі́льна пра *каго́*

**speaker** [ˈspiːkər] n. 1. прамó|вец -ўца *m.*, даклáдчык -а *m.*; старшыня́ схóду. 2. галóсьнік -а *m.*

**Speaker of the House** сьпі́кер -а *m.*

**speaking** [ˈspiːkɪŋ] – n. гаварэ́ньне, прамаўля́ньне *n.*
– adj. 1. які́ гавóрыць, прамаўля́е. 2. выра́зны, вымóўны: ***speaking eyes*** вымóўныя вóчы

**spear I** [spɪr] – n. дзі́да, пі́ка *f.*
– v.t. прабіва́ць дзі́дай

**spear II** [spɪr] n. сьцябло́ *n.*, асьце́н|ь -я *m.*, асьцю́к -а́ *m.*, былі́нка *f.* (*травы́, збóжжа*)

**spearman** [ˈspɪrmæn] n., pl **-men** дзідanóсец

**spearmint** [ˈspɪrmɪnt] n. мя́та *f.*

**spear side** мужчы́нская лі́нія ў рóдзе

**special** [ˈspeʃəl] adj. 1. адмыслóвы, спэцыя́льны. 2. асаблі́вы, своеасаблі́вы: ***of special interest*** асаблі́вага зацікаўле́ньня. 3. э́кстраны, спэцыя́льны: ***special train*** спэцыя́льны цягні́к; ***special edition*** спэцыя́льнае выда́ньне

**special delivery** тэрмінóвая дастáўка (*лістóў, тава́ру*)

**specialist** [ˈspeʃəlɪst] n. спэцыялі́ст -а, адмыслó|вец -ўца *m.*

**speciality** [ˌspeʃiˈæləti] n., pl. **-ties** 1. адмыслóвы хара́ктар, адмыслóвасьць, адме́тнасьць *f.* 2. спэцыя́льнасьць *f.*

**specialize** [ˈspeʃəlaɪz] v.i. 1. спэцыялізава́цца. 2. рабі́ц|ь (-ца) спэцыфі́чным; прыстасóўвацца; абмяжóўваць, звужа́ць

**specially** [ˈspeʃəli] adv. адмыслóва, спэцыя́льна; асаблі́ва; незвыча́йна

**specialty** [ˈspeʃəlti] n. 1. спэцыя́льнасьць *f.* 2. асаблі́васьць *f.*

**species** [ˈspiːʃiːz] n., pl. **-cies** Biol. від -у, гату́н|ак -ку *m.*
• ***the species*** род чалаве́чы

**specific** [spəˈsɪfɪk] – adj. 1. канкрэ́тны: ***There was no specific reason for the quarrel*** Не было́ канкрэ́тнае прычы́ны для сва́ркі. 2. характэ́рны, уласьці́вы. 3. спэцыфі́чны. 4. Biol. ві́давы: ***specific difference*** ві́давая рóзьніца
– n. спэцыфі́чны срóдак (*лек*): ***Quinine is a specific for malaria*** Хіні́н — спэцыфі́чны срóдак ад маля́рыі

**specification** [ˌspesəfɪˈkeɪʃən] n. 1. спэцыфіка́цыя *f.* 2. дэталіза́цыя *f.*

**specific gravity** удзе́льная вага́

**specific heat** удзе́льная цеплыня́

**specify** [ˈspesəfaɪ] v.t. 1. дакла́дна вызнача́ць (*час, ме́сца*). 2. канкрэтызава́ць

**specimen** [ˈspesəmɪn] n. 1. экзэмпля́р -а́ *m.*, пры́клад -у *m.*, асóбіна *f.* 2. тып -а

*m.*: ***What a specimen!*** Што за тып! Ну й тып!; ***queer specimen*** дзівák -á *m.* 3. аналіз -у *m.*, пробa *f.*

**specious** [ˈspiːʃəs] adj. 1. зру́чна вы́думаны: ***The teacher saw through John's specious excuse*** Настáўнік распазнáў Янкаў вы́думаны вы́крут. 2. дóбрапрыстóйны, паказны́: ***a specious hypocrite*** дóбрапрыстóйны крывадýшнік

**speck** [spek] – n. 1. пля́мка *f.*; крáпіна, крáпінка *f.* 2. чáстачка, крупінка *f.*: ***a speck of dust*** пылі́нка *f.*
– v.t. пля́міць

**speckle** [ˈspekəl] – n. крáпіна, крáпінка *f.*: ***This hen is gray with white speckles*** Гэ́тая кýрыца шэ́рая ў бéлыя крáпінкі
– v.t. знáчыць крáпінамі, пярэ́сьціць, сьпярэ́шчваць

**speckled** [ˈspekəld] adj. пярэ́сты, рабы́; у крáпіны: ***speckled hen*** пярэ́стая кýрыца, кýрка рáбка

**spectacle** [ˈspektəkəl] n. 1. відóвішча *n.* 2. публі́чны пакáз, выстáва *f.* 3. Figur. пасьмéшышча *n.*: ***to make a spectacle of oneself*** зрабі́ць зь сябé пасьмéшышча

**spectacles** [ˈspektəkəlz] n. акуля́ры *pl. only*, пэнснэ́ *n., indecl.*

**spectacular** [spekˈtækjələr] adj. вéлічны, імпазáнтны; эфэ́ктны

**spectator** [ˈspekteɪtər] n. глядáч гледачá *m.*

**spectral** [ˈspektrəl] adj. 1. спэктрáльны. 2. пры́відны

**spectrum** [ˈspektrəm] – n., pl. **-tra** *or* **-trums**, Phys. спэкт|ар -ру *m.*
– adj. спэктрáльны: ***spectral analysis*** спэктрáльны аналіз

**speculate** [ˈspekjəleɪt] v.i. 1. меркавáць; развaжáць. 2. угáдваць. 3. спэкулявáць

**speculation** [ˌspekjəˈleɪʃən] n. 1. прыпушчэ́ньне, развaжáньне *n.*; здагáдка, меркавáньне *n.* 2. спэкуля́цыя *f.*: ***His speculations in stock made him poor*** Спэкуля́цыі на бі́ржы зрабі́лі ягó бéдным

**speculative** [ˈspekjələtɪv] adj. 1. спэкуляцы́йны, пабудавáны на прыпушчэ́ньнях. 2. абстрáктны. 3. рызыкóўны

**speculator** [ˈspekjəleɪtər] n. спэкуля́нт -а *m.*

**sped** [sped] v., *p.t. and p.p. of* **speed**

**speech** [spiːtʃ] n. 1. мóва, гавóрка *f.*: ***His native speech was Belarusian*** Ягóная рóдная мóва былá беларýская. 2. прамóва *f.*, сьпіч -у *m*: ***to make a speech*** вы́ступіць з прамóвай; ***gift of speech*** дар красамóўства

**speechless** [ˈspiːtʃləs] adj. 1. аняме́лы: ***He was speechless with anger*** Ад злóсьці ямý заняло́ мóву. 2. ціхі, маўклі́вы: ***Her frown gave a speechless reply*** Нахмýраныя брóвы былі́ éйным маўклі́вым адкáзам

**speed** [spiːd] – n. 1. шпáркасьць, хýткасьць *f.*, хутчыня́ *f.*: ***to gather speed*** пабóльшваць хýткасьць, набірáць хýткасьці. 2. а) ход -у *m.*: ***The boys ran at full speed*** Хлапцы́ бéглі пóўным хóдам. б) ***slow speed*** павóльны ход. в) ***half speed*** сярэ́дні ход
– v.i., **sped** or **speeded, speeding** 1. хýтка ісьці́, éхаць, імчáць: ***The boat sped over the water*** Лóдка імчáла па вадзé. 2. перавышáць дазвóленую хýткасьць
– v.t. прысьпéшваць
• ***speed limit*** максымáльна дазвóленая хýткасьць; абмежавáньне хýткасьці
• ***speed up*** а) падганя́ць. б) паскарáць хýткасьць, прысьпéшваць хадý

**speedily** [ˈspiːdɪli] adv. сьпяшáючыся, сьпéхам, насьпéх, на хýткую рукý; зь вялі́кай хýткасьцю

**speeding** [ˈspiːdɪŋ] n. яздá з хýткасьцю бóльшай за дазвóленую

**speedy** [ˈspiːdi] adj. хýткі, шпáркі: ***speedy workers*** шпáркія рабóтнікі; ***a speedy change*** хýткая зьмéна; ***speedy progress*** хýткі пóступ

**spell I** [spel] v.t., **(-ll-)** or **spelt** 1. падавáць слóвы па лі́тарах. 2. пісáць грáматна: ***She cannot spell well*** Янá ня ўмéе

гра́матна пісáць; ***How do you spell your name?*** Як пі́шацца вáша імя́?

• ***spell out*** а) падавáць, чы́таць па лі́тарах. б) удакладня́ць, вытлумáчваць

**spell II** [spel] n. чáры *pl.*: ***to cast a spell on*** наслáць чáры на *кагó*, зачараваць

• ***under a spell*** зачараванý

**spell III** [spel] n. 1. пры́ступ -у *m.*, карóткі пэры́яд часу: ***a spell of coughing*** or ***coughing spell*** пры́ступ кáшлю; ***a spell of hot weather*** час гарáчага надвóр'я. 2. Informal часі́нка, хвілі́нка *f.*: ***rest for a spell*** адпачні́ хвілі́нку

**spelling** [ˈspelɪŋ] n. прáвапіс -у *m.*, артагрáфія *f.*; палі́тарнае чытáньне, вымаўлéньне

**spelt** [spelt] v., *p.t. and p.p. of* **spell**

**spend** [spend] v.t. **spent** 1. выдаткóўваць, трáціць: ***She spent ten dollars today*** Яна патрáціла сёньня дзéсяць дaля́раў. 2. марнавáць, трáціць: ***Don't spend any more time on that*** Не марнýй больш чáсу на гэ́та. 3. правóдзіць, бáвіць час: ***to spend a day at the beach*** правéсьці дзень на пля́жы. 4. марнатрáвіць

**spendthrift** [ˈspendθrɪft] – n. марнатрáлвец -ўца *m.&f.*; мантáч -á *m.*, мантáчка *f.*

– adj. марнатрáўны

**spent** [spent] v., *p.t., p.p. of* **spend.** adj. 1. ужы́ты, скарыстáны: ***spent gas*** адпрацавáны газ. 2. змардавáны, змóраны, загнáны: ***a spent horse*** загнáны конь; ***a spent swimmer*** змóраны плывéц

**sperm** [spɜ:rm] n. спэ́рма *f.*

**sphere** [sfɪr] n. 1. кýля, сфэ́ра *f.* (*зямнáя*). 2. сфэ́ра, нíва *f.*, пóле дзéйнасьці: ***sphere of influence*** сфэ́ра ўплы́ву

**spherical** [ˈsferɪkəl] adj. сфэры́чны

**sphinx** [sfɪŋks] n., pl. **sphinxes** сфі́нкс -а *m.*

**spice** [spaɪs] – n. 1. спэ́цыі, пéрнасьці *pl.*, прыпрáва *f.*: ***Pepper, cinnamon and cloves are spices*** Пéрац, кары́ца, гвазьдзíка — гэ́та пéрнасьці. 2. пікáнтнасьць *f.* 3. адцéньне *n.*, пры́смак -у *m.*, прымéшка *f.*

– v.t. 1. прыпраўля́ць. 2. дадавáць пікáнтнасьці, цікáвасьці

**spicery** [ˈspaɪsəri] n., pl. **-eries** 1. прыпрáвы *pl.* 2. вóстры смак; рэ́зкі, вóстры пах

**spick-and-span** [ˌspɪkənˈspæn] adj. ахáйны, акурáтны; чы́сты, чысьцю́сенькі, чысьцю́ткі; элегáнтны: ***a spick-and-span room*** чысьцю́сенькі пакóй

**spicy** [ˈspaɪsi] adj. 1. пéрны, вóстры (*пра смак*); вóстры, рэ́зкі (*пах*), духмя́ны; прыпрáўлены (*пра стрáву*). 2. жывы́, гарáчы: ***spicy conversation*** жывáя, гарáчая гýтарка. 3. пікáнтны, салёны, не зусíм прыстóйны: ***Some of his stories were a bit spicy*** Некатóрыя зь ягóных апавядáньняў былí крыхý салёныя

**spider** [ˈspaɪdər] n. 1. павýк -á *m.* 2. трынóжка *f.*

**spider web** павуцíна *f.*, павуцíньне, павучы́ньне *n.*

**spigot** [ˈspɪgət] n. 1. шпунт -а *m.*, заты́чка *f.* 2. кран -а *m.*

**spike I** [spaɪk] – n. 1. болт бaлтá, шпень шпяня́, касты́лль -я́ *m.* 2. шып -а *m.* 3. Sport чаравíкі з шыпáмі

– v.t. 1. злучáць, змацóўваць балтáмі. 2. набівáць шы́пы (*на падэ́швы*). 3. спыня́ць (*пля́ны, намагáньні*). 4. Informal рабíць яршá, дадавáць алькагóлю (*да напóю*). 5. Sport зразáць (*мяч*)

**spike II** [spaɪk] n. кóлас -а *m.*

**spike heel** высóкі тóнкі абцáс, шпíлька *f.*

**spill I** [spɪl] – v.t. **spilled** or **spilt** 1. а) расплю́хваць, разьлівáць: ***to spill milk*** разьлíць малако. б) рассыпáць: ***to spill salt*** рассы́паць соль. 2. пралівáць (*кроў*). 3. Informal скідáць, вы́вальваць, вываро́чваць (*з каня́, вóза*). 4. Sl. выдавáць (*сакрэ́т*)

– v.i. 1. разьлівáцца, расплю́хвацца: ***Water spilled from the pail*** Вадá расплю́халася зь вядрá; рассыпáцца. 2. звáльвацца; вываро́чвацца

**spill II** [spɪl] n. падпа́лка, лучы́на, трэ́ска *f.*

**spilt** [spɪlt] v., *p.t., p.p. of* **spill I**

**spin** [spɪn] – v.t. **spun, spinning** 1. пра́сьці, снава́ць: ***A spider spins a web*** Паву́к снуе́ павуці́ну. 2. круці́ць: ***to spin a top*** запуска́ць ваўчо́к. 3. склада́ць (*пе́сьні, ве́ршы*), ве́сьці апавяда́ньне. 4. Sl. тлума́чыць на сваю́ кары́сьць
– v.i. 1. круці́цца. 2. імча́цца
– n. 1. прадзе́ньне *n.* 2. кручэ́ньне *n.* 3. імча́ньне *n.* 4. Av. што́пар -у *m.* 5. прае́здка *f.*: ***We went for a spin*** Мы пае́халі пракаці́цца. 6. Sl. тлумачэ́ньне на сваю́ кары́сьць

**spinach** [ˈspɪnɪtʃ] n. шпіна́т -у *m.*

**spinal** [ˈspaɪnəl] – adj. хрыбе́тны, сьпі́нны
– n., Informal абязбо́леньне хрыбе́тніка

**spinal column** хрыбе́тнік -а *m.*, хрыбле́т -та́ *m.*

**spinal cord** сьпі́нны мозг

**spindle** [ˈspɪndəl] n. 1. верацяно́ *n.* 2. ме́рка пра́дзіва

**spine** [spaɪn] n. 1. хрыбе́тнік -а *m.*, хрыбле́т -та́ *m.* 2. Figur. адва́га, рашу́часьць *f.* 3. це́рн|ь -я *m.*, калю́чка *f.* 4. Zool. го́лка *f.* (*у во́жыка*). 5. сьпі́нка кні́гі

**spineless** [ˈspaɪnləs] adj. бесхрыбе́тны; бесхара́ктарны

**spinning** [ˈspɪnɪŋ] n. 1. прадзе́ньне *n.* 2. сьпі́нінг -а *m.*

**spin-off** [ˈspɪnɔ:f] n. пабо́чны вы́нік

**spinster** [ˈspɪnstər] n. 1. пра́льля *f.* 2. стара́я дзе́ўка

**spiny** [ˈspaɪni] adj. 1. калю́чы, цярно́вы: ***a spiny cactus*** калю́чы ка́ктус; ***a spiny porcupine*** калю́чы дзікабра́з. 2. Figur. цяжкі́, турбо́тны; цярні́сты

**spiral** [ˈspaɪrəl] – n. сьпіра́ль *f.*
– adj. сьпіра́льны: ***a spiral spring*** сьпіра́льная спружы́на

**spirant** [ˈspaɪrənt] n., Gram. фрыкаты́ўны зы́чны

**spire I** [spaɪr] – n. 1. сьпіча́к -а́ *m.*; шпіль -я *m.* (*ве́жы, хво́і*). 2. пік -а *m.*
– v.i. вы́сіцца, уздыма́цца ўго́ру

**spire II** [spaɪr] n. скру́т|ак -ка *m.*, сьпіра́ль *f.*

**spirit** [ˈspɪrɪt] – n. дух -у *і* -а *m.*, душа́ *f.*: ***spirit of the law*** дух пра́ва; ***in (the) spirit*** у ду́ху, ду́хам: ***He is present in spirit*** Ён душо́ю тут
– v.t. 1. натхня́ць; узьніма́ць (*настро́й*); падбадзёрваць
• ***the Holy Spirit*** Сьвяты́ Дух
• ***Great Spirit*** Вялі́кі Дух (*у індзе́йцаў*)
• ***spirits,*** pl. 1. хара́ктар-у *m.*, натура *f.*; настро́|й -ю *m.*: ***in high spirits*** у прыўзьня́тым настро́і; ***in low spirits*** or ***out of spirits*** прыгне́чаны, марко́тны. 2. алькаго́льныя напо́і, тру́нкі *pl.*

**spirited** [ˈspɪrɪtɪd] adj. 1. ажы́ўлены, ціка́вы, жывы́. 2. натхнёны: ***spirited speech*** натхнёная прамо́ва

**spiritism** [ˈspɪrɪtɪzəm] n. сьпірыты́зм -у *m.*

**spiritless** [ˈspɪrɪtləs] adj. без жыцьця́, без настро́ю, вя́лы; нясьме́лы

**spiritual** [ˈspɪrɪtʃuəl] – adj. 1. духо́вы, духо́ўны. 2. рэлігі́йны, царко́ўны
– n. сьпіры́чуал -у *m.* (*нэгрыця́нская рэлігі́йная пе́сьня*)

**spiritualism** [ˈspɪrɪtʃuˌlɪzəm] n. сьпірытуалі́зм -у *m*, сьпірыты́зм -у *m.*

**spirituous** [ˈspɪrɪtʃuəs] adj. 1. алькаго́льны. 2. дыстыля́ваны, гна́ны (*пра алькаго́ль*)

**spit I** [spɪt] **spat** or **spit, spitting** – v.t. 1. пльва́ць. 2. выплёўваць
– v.i. 1. пльва́цца. 2. трашчэ́ць, шыпе́ць (*пра сьве́чку, аго́нь*); пы́рхаць, фы́ркаць (*пра ката́*). 3. церушы́ць (*пра дро́бны сьнег*), імжэ́ць (*пра дождж*)
– n. 1. сьліна́ *f.*; пля|во́к -ўка́ *m.* 2. пльва́ньне *n.* 3. дро́бны дождж або́ сьнег
• ***spitting image*** вы́літая ко́пія

**spit II** [spɪt] – n. 1. ражо́н -на́ *m.* (для сма́жаньня мя́са). 2. каса́ *f.*, мыс -у *m.*
– v.t. 1. натыка́ць, наткну́ць (на ражо́н). 2. прабіва́ць, прабі́ць; пракало́ць

**spite** [spaɪt] – n. злосьць, зло́снасьць, злара́днасьць *f.*

– v.i. рабíць на злосьць камý; дакучáць, дапякáць
• ***in spite of*** нягле́дзячы, не зважáючы на кагó-што

**spiteful** [ˈspaɪtfəl] adj. злóсны, зласьлíвы; злапóмны

**spittle** [ˈspɪtəl] n. сьлíна *f.*; плявóк -ўкá *m.*; харкавíньне *n.*, харк -у *m.*

**splash** [splæʃ] – v.t. 1. распы́рскваць (*вадý, гразь*). 2. абдавáць, аблівáць вадóю, пы́рскаць: ***The waves splashed on the beach*** Хвáлі распы́рскваліся на пля́жы. 3. замóчваць, абпы́рскваць, захлю́пваць
– v.i. 1. шлёпацца, бóўтацца, хлю́пацца. 2. хлю́паць, хлёпаць: ***He splashed across the brook*** Ён прахлю́паў праз ручáй
– n. 1. хлюпатá *f.* 2. пы́рсканьне, распы́рскваньне, плю́ханьне *n.* 3. пы́рска, кля́кса *f.* 4. плёскат, пляск -у *m.*: ***to fall into water with a splash*** увалíцца ў вадý з плёскатам. 5. пля́ма *f.* : ***She has splashes of grease on her dress*** На е́йнай суке́нцы былí пля́мы тлýшчу
• ***make a splash,*** Informal зрабíць сэнсáцыю

**splatter** [ˈsplætər] – v.i. хлю́паць
– v.t. мясíць гразь; расплю́хваць
– n. хлюпатá *f.*

**spleen** [spli:n] n. 1. Anat. селязёнка, касá *f.* 2. благí настрóй; злосьць *f.* 3. хандрá *f.*

**splendid** [ˈsplendɪd] adj. 1. бліскýчы: ***a splendid victory*** бліскýчая перамóга. 2. пы́шны, велікапы́шны; цудóўны: ***a splendid palace*** велікапы́шны палáц; ***a splendid sunset*** цудóўны зáхад сóнца. 3. ве́льмі дóбры; выдáтны: ***a splendid chance*** выдáтная нагóда

**splendor**, Brit. **splendour** [ˈsplendər] n. 1. бляск -у *m.* 2. пы́шнасьць, велікапы́шнасьць *f.*; раскóша *f.*, шык -у *m.*, пóмпа *f.*

**splint** [splɪnt] n. 1. лубкí *pl.*, шы́на *f.* (*для зламáнай кóсьці*). 2. луб -у *m.*

**splinter** [ˈsplɪntər] – n. стрэ́мка *f.*; дрóбны вóстры кавáлачак, аскóлак -ка *m.*: ***The mirror broke into splinters*** Лю́стра разьбілася на дрóбныя кавáлачкі
– v.t. расьсякáць, расшчапля́ць, калóць (*дрóвы*)
– v.i. адступáцца, адшчапля́цца, адцзяля́цца

**splinter group** *or* **party** адшчапе́нцы, раскóльнікі *pl.*

**split** [splɪt] – v.t. **split, splitting** 1. расшчапля́ць. 2. разьбівáць; разьдзяля́ць (*на чáсткі*), дзялíць: ***to split the profits*** падзялíць прыбы́ткі
– v.i. дзялíцца на рóзныя грýпы, пáртыі
– n. 1. разьбíцьцё *n.*, раскóл -у *m.* (*у арганізáцыі, пáртыі*). 2. расшчэ́піна, раскóліна, шчы́ліна *f.*
– adj. расшчэ́плены; разьбíты, падзе́лены
• ***splits*** шпагáт -у *m.* (*у гімнáстыцы*)

**splitting** [ˈsplɪtɪŋ] adj. які́ адшчэ́пліваецца *або́* расшчэ́пліваецца
• ***splitting headache*** галавá трашчы́ць (*ад бóлю*)

**splotch** [splɑ:tʃ] – n. брýдная пля́ма
– v.t. запы́рскваць, заплёхваць

**spoil** [spɔɪl] – v.t. 1. шкóдзіць, псавáць. 2. распушчáць; разбэ́шчваць, расьпе́шчваць (*дзяце́й*). 3. крáсьці; рабавáць
– v.i. псавáцца: ***The fruit spoiled*** Садавінá сапсавáлася
• ***spoils*** вае́нныя трафэ́і

**spoke I** [spoʊk] v.i., *p.t. of* **speak**

**spoke II** [spoʊk] n. 1. сьпíца *f.* (*кóла*). 2. папярэ́чка *f.*, прыстýпка *f.* (*драбíны*)
• ***put a spoke in a wheel*** стáвіць пáлкі ў кóлы

**spoken** [ˈspoʊkən] – v., *p.p. of* **speak**
– adj. скáзаны: ***the spoken word*** скáзанае слóва

**spokesman** [ˈspoʊsmən] n., pl.**-men** прэ́савы прадстаўні́к, выкáзьнік -а *m.* (*паглядаў, станóвішча*)

**sponge** [spʌndʒ] – n. гýбка *f.*

– v.t. 1. выціра́ць гу́бкай. 2. уця́гваць, убіра́ць
• ***sponge on*** жыць за чужы́ кошт

**sponge bath** абціра́ньне, абмыва́ньне

**sponger** [ˈspʌndʒər] n. 1. той, што зьбіра́е гу́бкі. 2. Informal дармае́д, нахле́бнік -а *m.*

**spongy** [ˈspʌndʒi] adj. 1. губча́ты, губкава́ты: ***spongy dough*** пы́шнае це́ста. 2. зь дзі́ркамі, дзіра́вы

**sponsor** [ˈspɑːnsər] – n. 1. паруча́льнік -а, апяку́н апекуна́ *m.* 2. спо́нсар -а, дабрадзе́й -я *m.* 3. хро́сны ба́цька, хро́сная ма́ці
– v.t. падтры́мваць (*асаблі́ва грашы́ма*)

**sponsorship** [ˈspɑːnsərʃɪp] n. 1. апяку́нства *n.* 2. фінансава́ньне *n.*

**spontaneous** [spɑːnˈteɪniəs] adj. 1. адво́льны, спанта́нны: ***spontaneous cheers*** спанта́нныя во́клічы. 2. самаадво́льны, стыхі́йны

**spontaneous combustion** самаўзгара́льнасьць *f.*

**spook** [spuːk] n., Informal здань *f.*, пры́від -у *m.*

**spool** [spuːl] – n. шпу́ля, шпу́лька *f.*; цэ́ўка *f.*
– v.t. наміва́ць (*на шпу́льку*); сука́ць (*цэ́ўку*)

**spoon** [spuːn] – n. лы́жка, лы́жачка *f.*
– v.t. чэ́рпаць лы́жкаю
• ***born with a silver spoon in one's mouth*** наро́джаны ў кашу́лі, наро́джаны шчасьлі́вым

**sporadic** [spəˈrædɪk] adj. 1. нерэгуля́рны, спарады́чны. 2. паасо́бны, адзі́нкавы: ***sporadic cases of scarlet fever*** паасо́бныя выпа́дкі шкарляты́ны

**sporadically** [spəˈrædɪkəli] adv. тут і там; у ро́зных ме́сцах; тады́-сяды́, калі́-нікалі́; паасо́бку; спарады́чна

**spore** [spɔːr] n., Biol. спо́ра *f.*

**sport** [spɔːrt] – n. 1. спорт -у *m.* 2. Informal до́бры хло́пец
– v.i. 1. забаўля́цца, гуля́ць. 2. папі́свацца, франці́ць
– adj. спарты́ўны, спарто́вы
• ***Good sport!*** Малайчы́на!
• ***in*** or ***for sport*** жа́ртам, для заба́вы; дзе́ля сьме́ху

**sporting** [ˈspɔːrtɪŋ] adj. 1. спарты́ўны, спарто́вы. 2. Informal рызыко́ўны. 3. ро́ўны, адно́лькавы: ***All teams had a sporting chance at the trophy*** Усе́ кама́нды ме́лі адно́лькавы шанц на трафэ́й

**sports car** спарто́вы аўтамабі́ль

**sportscast** [ˈspɔːrtskæst] n. спарто́вая перада́ча

**sport shirt** спарто́вая кашу́лька

**sportsman** [ˈspɔːrtsmən] n., pl. **-men** 1. ама́тар спо́рту (*паляўні́чы, рыба́к*). 2. спартоўвец -ўца, спартсмэ́н -а *m.* 3. рызыка́нт -а *m.*

**sportsmanlike** [ˈspɔːrtsmənˌlaɪk] adj. прысто́йны, высакаро́дны (*у спабо́рніцтвах*)

**sportsmanship** [ˈspɔːrtsmənʃɪp] n. 1. спра́ўнасьць да спо́рту. 2. прысто́йнасьць у спо́рце

**sportswear** [ˈspɔːrtswer] n. спарто́вая во́пратка

**sportswoman** [ˈspɔːrtsˌwʊmən] n. спарто́ўка, спартсмэ́нка *f.*

**sporty** [ˈspɔːrti] adj. 1. хва́цкі, зухава́ты, уда́лы. 2. фарсі́сты

**spot** [spɑːt] – n. 1. пля́ма, пля́мка *f.*: ***a spot of ink*** чарні́льная пля́ма. 2. га́ньба *f.*.; хі́ба, зага́на *f.*: ***His character is without a spot*** У яго́ беззага́нны хара́ктар. 3. кра́пінка, кра́пка *f.*: ***a blue tie with white spots*** сі́ні га́льштук зь бе́лымі кра́пінкамі. 4. мясьці́на *f.*; ме́сца *n.*: ***From this spot you can see the ocean*** З гэ́тага ме́сца мо́жна ба́чыць акія́н
– v.t. (**-tt-**) 1. пля́міць. 2. га́ньбіць, пля́міць (*рэпута́цыю*). 3. ста́віць, расстаўля́ць, раскі́дваць. 4. Informal вылуча́ць; заўважа́ць: ***The teacher spotted every mistake*** Наста́ўнік заўва́жыў ко́жную памы́лку
• ***in spots*** ме́сцамі
• ***it hit the spot,*** Informal прыйшло́ся да гу́сту, задаво́ліла

• ***on*** or ***upon the spot*** а) тут жа, на ме́сцы. б) адра́зу, за́раз жа. в) Sl. у кло́паце, у цяжкі́м стано́вішчы

• ***spot answer*** гато́вы адка́з

**spot check** вы́барачная праве́рка

**spotless** [ˈspɑ:tləs] adj. чысцю́ткі, незапля́млены; беззага́нны

**spotlight** [ˈspɑ:tlaɪt] n. 1. пражэ́ктар -а *m.* 2. цэнтар ува́гі: ***to be in the spotlight*** быць у цэ́нтры ўва́гі

**spotted** [ˈspɑ:təd] adj. 1. папля́млены. 2. пярэ́сты, плямі́сты: ***a spotted cow*** пярэ́стая каро́ва. 3. запля́млены, зга́ньблены, абнясла́ўлены: ***a spotted reputation*** запля́мленая рэпута́цыя

**spouse** [spaʊs] n. сужэ́н|ец -ца *m.*; муж -а *m.* *або́* жо́нка *f.*

**spout** [spaʊt] – v.t. пуска́ць струме́нь: ***A whale spouts water when it breathes*** Кіт выпуска́е струме́нь вады́, калі́ ды́хае

– v.i. біць струме́нем, лі́цца цурко́м, цурчэ́ць: ***Water spouted from a break in the pipe*** Вада́ бі́ла струме́нем зь дзі́ркі ў трубе́

– n. 1. струме́н|ь -я *m.* 2. ры́на *f.* (*для сьцёку*). 3. дзю́бка *f.*; ры́лца *n.* (*пля́шкі*). 4. Zool. ды́хальная адту́ліна (*у кіта́*)

• ***up the spout,*** Sl. а) закла́дзены (*у ля́мба́рд*). б) даве́дзены да руі́ны

**sprain** [spreɪn] – v.t. расьця́гваць (*зьвя́зкі, сухажы́льлі*)

– n. расьцяжэ́ньне *n.* (*зьвя́зак, сухажы́льляў*)

**sprang** [spræŋ] v.i., *p.t. of* **spring**

**sprawl** [sprɔ:l] – v.i. 1. распасьціра́цца. 2. ляжа́ць *або́* сядзе́ць развалі́ўшыся, развалі́цца. 3. пі́саць вялі́кім разма́шыстым по́чыркам

– n. 1. распасьцёртасьць *f.* 2. разва́лістасьць *f.*

**spray I** [spreɪ] – n. 1. пы́рскі *pl.* 2. спрэ|й -ю *m.*, ва́дкасьць для пульвэрыза́цыі. 3. ***a spray gun*** пульвэрыза́тар, распыля́льнік, абпы́рсквальнік -а *m.*

– v.t. 1. пы́рскаць, абпы́рскваць; крапі́ць, пакрапі́ць. 2. распыля́ць. 3. абсыпа́ць: ***to spray the enemy with bullets*** абсы́паць во́рага ку́лямі

**spray II** [spreɪ] n. сьцяблі́на *f.*, мала́я гालі́нка: ***a spray of lilacs*** галі́нка бэ́зу; ***a spray of berries*** сьцяблі́на я́гадніку

**sprayer** [ˈspreɪər] n. пульвэрыза́тар, распыля́льнік, абпы́рсквальнік -а *m.*

**spread** [spred] – v.t. **spread, spreading** 1. расьсьці́ла́ць. 2. распасьціра́ць: ***to spread one's arms*** шыро́ка раскі́нуць ру́кі. 3. раскла́да́ць, адклада́ць, расьця́гваць: ***to spread a shipment over two months*** разлажы́ць дастаўку тава́ру на два ме́сяцы. 4. пашыра́ць, шы́рыць (*ідэ́і, наві́ны, чу́ткі*). 5. ма́заць: ***She spreads each slice with butter*** Ко́жную лу́стачку яна́ ма́жа ма́слам. 6. накрыва́ць: ***to spread the table*** накры́ць стол

– v.i. 1. ляжа́ць, далёка праця́гвацца *або́* расьця́гвацца, раскі́нуцца: ***Fields of corn spread out before us*** Прад на́мі раскі́нуліся жытнёвыя ні́вы. 2. разыхо́дзіцца, пашыра́цца, распаўсю́джвацца: ***The sickness spread rapidly*** Хваро́ба ху́тка пашыра́лася. 3. кла́сьціся: ***This paint spreads evenly*** Гэ́тая фа́рба ро́ўна кладзе́цца. 4. разго́ртвацца; раскрыва́цца

– n. 1. а) размáх -у *m.* (*кры́лаў пту́шкі*). б) расьця́жнасьць *f.*: ***the spread of elastic*** расьця́жнасьць гу́мкі. 2. распаўсю́джваньне, пашырэ́ньне *n.*: ***to fight the spread of an infection*** змага́цца з пашырэ́ньнем зара́зы. 3. шыр -ы *f.*, прасьця́г, прасто́р -у *m.*: ***a great spread of green fields*** вялі́кі прасьця́г зялёных палёў. 4. абру́с -а *m.*; по́сьцілка *f.* (*на ло́жак*). 5. ро́зьніца ў цане́ ку́плі й про́дажу

**spreadsheet** [ˈspredʃi:t] n., Comput. табліца *f.*

**spree** [spri:] – n. 1. свавóльства *n.*, вясёлая гуля́нка. 2. вы́піўка, папо́йка *f.*

– v.i. гуля́ць

**sprig** [sprɪg] n. 1. па́растак, ато́жылак -ка *m.*, галі́нка *f.* 2. арна́мэнт *або́* ўзо́р у вы́глядзе галі́нкі. 3. малады́ чалаве́к; юна́к -а́ *m.*, падлё́т|ак -ка *m.* 4. ато́жылак, нашча́д|ак -ка *m.* (*жартаўлі́ва*)

**sprightly** [ˈspraɪtli] adj. жывы́, ціка́вы, займальны; жва́вы, вясё́лы

**spring** [sprɪŋ] – v.i. **sprang** or **sprung, sprung, springing** 1. уско́кваць, ху́тка ўстава́ць: ***The boy sprang to his feet*** Хло́пец ускочы́ў на но́гі. 2. пераско́кваць: ***to spring over a fence*** пераско́чыць праз плот. 3. узвыша́цца: ***to spring into fame*** узвы́сіцца да сла́вы. 4. браць пача́так; расьці́: ***Plants sprang up from the seeds we planted*** Расьлі́ны вы́расьлі з насе́ньня, якое мы пасе́ялі. 5. пахо́дзіць ад *каго́.* 6. біць; сы́пацца: ***Sparks sprang from the fire*** Іскры сы́паліся ад агню́. 7. паўстава́ць, зьяўля́цца: ***New towns are springing up*** Паўстаю́ць но́выя гарадкі́

– n. 1. скок, падско́к -у *m.*: ***a spring over the fence*** скок праз плот. 2. спружы́на *f.*: ***Beds have wire springs*** Ло́жкі ма́юць драцяны́я спружы́ны. 3. пру́ткасьць, спружы́ністасьць, элясты́чнасьць *f.* 4. вясна́ *f.* 5. крыні́ца *f.* 6. пача́т|ак -ку *m.*; прычы́на *f.* 7. раско́ліна, трэ́шчына, расшчэ́піна *f.*; вы́гін -у *m.*

– adj. 1. спружыно́вы, спружы́нны. 2. веснавы́, вясно́вы, вясьня́ны. 3. крыні́чны: ***spring water*** крыні́чная вада́

• ***spring a leak*** дава́ць це́чу, пацячы́

• ***spring a lock*** адчыні́ць замо́к

• ***spring a surprise*** зрабі́ць неспадзе́ўку

**springy** [ˈsprɪŋi] adj. пру́гкі, спружы́ністы; гну́ткі

**sprinkle** [ˈsprɪŋkəl] – v.t. 1. абсыпа́ць, пасыпа́ць. 2. крапі́ць; пы́рскаць, абпы́рскваць

– v.i. кра́паць, пы́рскаць (*пра малы́ дождж*), імжы́ць

– n. 1. кра́паньне, пы́рсканьне, абсыпа́ньне, пасыпа́ньне *n.* 2. дро́бны до́жджык; імжа́ *f.*

**sprinkler** [ˈsprɪŋklər] n. 1. спы́рсквальнік, палі́ва́льнік -а *m.* 2. крапі́ла *n.*

**sprint** [sprɪnt] – v.i. бе́гчы на каро́ткую дыста́нцыю

– n. Sport спрынт -у *m.*

**sprite** [spraɪt] n. эльф -а *m.*, фэ́я *f.*

**sprout** [spraʊt] – v.i. 1. узыхо́дзіць; пуска́ць па́расткі: ***Seeds sprout*** Насе́ньне прараста́е. 2. распуска́цца: ***Buds sprout in the spring*** Пупы́шкі распуска́юцца ўве́сну. 3. ху́тка, шпа́рка разьвіва́цца

– n. 1. па́раст|ак, ато́жыл|ак -ка *m.* 2. малы́ хлапе́ц

• ***sprouts*** брусэ́лька *f.* (*капу́ста*)

**spruce I** [spru:s] n. 1. е́лка, ялі́нка *f.* 2. е́льнік -у *m.*

**spruce II** [spru:s] – adj. аха́йны, элега́нтны.

– v.i. убіра́цца, выстро́йвацца

**sprung** [sprʌŋ] v., *p.t. p.p. of* **spring**

**spry** [spraɪ] adj. жва́вы, руха́вы, шпа́ркі; увішны́, спры́тны, паваро́тлівы

**spume** [spju:m] – n. пе́на *f.*, шум, на́кіп -у *m.*

– v.i. пе́ніцца

**spumous** [ˈspju:məs] or **spumy** [ˈspju:mi] adj. пакры́ты пе́най; пе́ністы

**spun** [spʌn] v., *p.t., p.p. of* **spin**

**spur** [spɜ:r] – n. 1. шпо́ра *f.* 2. сты́мул -у *m.*, падахво́чваньне *n.* 3. адро́ст|ак -ка *m.*, адгалінава́ньне *n.*: ***cock's spurs*** пе́ўневы шпо́ры; ***a spur of the railway*** адгалінава́ньне чыгу́нкі, ве́тка *f.*

– v.t. 1. шпо́рыць, прышпо́рваць. 2. пабуджа́ць, заахво́чваць, дадава́ць адва́гі, падбадзё́рваць

• ***on the spur of the moment*** адра́зу, умо́мант

**spurious** [ˈspjʊriəs] adj. падро́блены, фальшы́вы: ***a spurious coin*** фальшы́вая манэ́та; ***a spurious document*** падро́блены дакумэ́нт

**spurn** [ˈspɜ:rn] – v.t. 1. адмаўля́цца з пага́рдай; пага́рдліва адкіда́ць. 2. піха́ць, адпі́хваць нагою

– v.i. працівіцца, супраціўляцца; мóцна пратэставáць
– n. 1. пагáрдлівая адмóва; пагáрдлівае стáўленьне. 2. удар -у *m.*, вы́сьпят|ак -ка *m.*

**sputter** [ˈspʌtər] – v.i. 1. шыпéць, трашчэ́ць (*пра агóнь*), сквірчэ́ць (*пра сквáркі*). 2. пы́рскаць, плявáцца, выплёўваць. 3. лапатáць
– n. 1. шыпéньне *n.*, трэ́скат -у *m.*; сквірчэ́ньне *n.* 2. лапатáньне *n.*

**sputum** [ˈspju:təm] n., pl. **-ta** 1. сьлíна *f.* 2. флéгма *f.*, харкавíньне *n.*

**spy** [spaɪ] – n., pl. **spies** 1. шпіён -а *m.* 2. шпег -а *m.*, шпік -á *m.*; тáйны агéнт
– v.i. сачы́ць, назірáць, разьвéдваць. 2. шпегавáць; шпіёніць

**spyglass** [ˈspaɪglæs] n. падзóрная трубá

**squabble** [ˈskwɑ:bəl] – n. свáрка, спрэ́чка *f.*, бýча *f.*: ***children's squabbles*** дзіцячыя крыклівыя свáркі
– v.i. сварыцца, спрачáцца: ***I won't squabble over a nickel*** За дрóбязь ня бýду сварыцца; За анýчу ня бýду ўздымáць бýчу

**squad** [skwɑ:d] n. 1. аддзéл -у *m.*, камáнда, грýпа, брыгáда *f.* 2. Milit. аддзéл жаўнéраў, разьлíк -у *m.*

**squad car** дыжýрная паліцэ́йская машы́на

**squadron** [ˈskwɑ:drən] n. 1. эскáдра караблёў, самалётаў. 2. эскадрон -у *m.*; кавалеры́йскі дывізіён. 3. эскадры́льля *f.* 4. грýпа *f.*

**squall I** [skwɔ:l] n. 1. шквал -у *m.*, віхóр віхру *m.* 2. Informal клóпаты *pl.*, бядá *f.*

**squall II** [skwɔ:l] – v.i. 1. крычэ́ць, гарлáніць, гарлапáніць. 2. вішчэ́ць: ***The baby squalled*** Дзіцё вішчэ́ла
– n. 1. крык -у *m.*, гарлáньне *n.* 2. віск -у *m.*, вішчэ́ньне *n.*

**squally** [ˈskwɔ:li] adj. 1. бýрны: ***squally weather*** бýрнае надвóр'е. 2. пары́вісты (*пра вéцер*). 3. Informal пагрóзьлівы; неспакóйны, трывóжны

**squander** [ˈskwɑ:ndər] v.t. растрáчваць; марнатрáвіць, мáрна трáціць, прагýльваць (*час, сíлы*)

**squanderer** [ˈskwɑ:ndərər] n. мантáч -á, гулякl|а -і, марнатрál|вец -ўца *m.*

**square** [skwer] – n. 1. Geom. квадрáт -а *m.* 2. квартáл -а *m.*: ***The large factory fills a whole square*** Вялíкая фáбрыка займáе цэ́лы квартáл. 3. сквэр -у *m.* 4. плóшча *f.* 5. Math. квадрáт лíку, лік у другóй ступéні: ***16 is the square of 4*** 4 у квадрáце бýдзе 16
– adj. 1. квадрáтны: ***a room five meters square*** пакóй на пяць квадрáтных мэ́траў. 2. прастакýтны: ***a square corner*** прóсты кут. 3. справядлíвы, сумлéнны. 4. катэгары́чны: ***square refusal*** катэгары́чная адмóва. 5. у квадрáце. 6. Sl. старамóдны, адстáлы, кансэрваты́ўны
– v.t. 1. рабíць квадрáтным; выпрóстваць. 2. Math. узвóдзіць у квадрáт. 3. Figur. палагóджваць
• ***back to square one*** пачáць з пачáтку, нáнава
• ***on the square*** сумлéнна, справядлíва
• ***square oneself,*** Informal аплацíць, разьлічы́цца, кампэнсавáць
• ***square up*** расплацíцца, залагóдзіць
• ***square with*** згаджáцца з *чым*, адпавядáць *чамý*: ***His acts do not square with his promises*** Ягóныя ўчы́нкі не адпавядáюць ягóным абяцáньням

**square bracket** квадрáтная дýжка

**square dance** кадры́ля *f.*

**square measure** мéра плóшчы

**square root** квадрáтны кóрань

**squash I** [skwɑ:ʃ] – v.t. 1. душы́ць, раздýшваць: ***The boy squashed the bug*** Хлóпчык раздушы́ў казя́ўку. 2. здýшваць (*бунт*). 3. Informal разьбівáць (*спрэ́чку, аргумэ́нт*)
– v.i. 1. раздýшвацца. 2. тóўпіцца, цíскацца ў натóўпе
– n. 1. раздýшаная, расьцертая мáса. 2. сквош -у *m.* (*гульня́, падóбная да тэ́нісу*). 3. Brit. напóй з фрýктавым сóкам: ***lemon squash*** ліманáд -у *m.*

**squash II** [skwɑ:ʃ] n., pl **squash** *or* **-es** гарбýз -á *m.*; кабачl|óк -кá *m.*

**squashy** [ˈskwɑːʃi] adj. 1. які́ лёгка раздýшваецца. 2. грáзкі: ***squashy ground*** грáзкая, размóклая зямля́

**squat** [skwɑːt] – v.i. **squatted**, **squatting** прысядáць на кýкішкі; сядзéць на кýкішках. 2. прынікáць, прыпадáць да зямлí (*пра зьвярá*). 3. самавóльна асяля́цца на чужóй кватэ́ры

– adj. 1. каржакавáты; прысáдзісты. 2. прыплю́снуты

– n. 1. сядзéньне на кýкішках *n.* 2. самавóльнае асялéньне; нарá, бярлóга *f.*

**squeak** [skwiːk] – v.i. 1. пішчэ́ць. 2. гавары́ць пісклі́вым гóласам. 3. Sl. выдавáць, данóсіць. 3. Informal ледзь працíскáцца

– n. піск -у *m.*

**squeaky** [ˈskwiːki] adj. пісклі́вы

**squeal** [skwiːl] – v.i. 1. вішчэ́ць, пішчáць. 2. верашчáць. 3. наракáць; ныць. 4. Sl. выдавáць данóсчыка

– n. 1. віск -у *m.* (*сьвіньні́*); піск -у *m.* 2. Informal 1. данóс -у *m.* 2. стукáч -á *m.*

**squeamish** [ˈskwiːmɪʃ] adj. 1. празьмéрна ўрáжлівы. 2. занáдта перабóрлівы; скрупулёзны. 3. якóму мóташна, млóсна: ***He turned squeamish at the sight of blood*** Ямý стáла млóсна, калí пабáчыў кроў

**squeeze** [skwiːz] – v.t. 1. цíснуць, сьцíскáць. 2. абдымáць, мóцна прыцíскáць да сябé. 3. упіхáць, упíхваць. 4. абцяжáрваць, уцíскáць (*падáткамі*). 5. Informal вымагáць, выцíскáць

– v.i. 1. выцíскáцца: ***Sponges squeeze easily*** Гýбкі лёгка выцíскáюцца. 2. працíскáцца

– n. 1. пóціск рукі. 2. цяснóта, таўкатня́, цісканíна *f.* 3. Informal дамагáньнне прымýсам, шантáж -ý *m.*: ***tight squeeze*** цяжкóе станóвішча

**squint** [skwɪnt] – v.i. 1. жмýрыцца. 2. касавýрыцца. 3. быць касавóкім

– adj. касавóкі

– n. зірк, намёк -у *m.*

**squirrel** [ˈskwɜːrəl] – n. вавёрка *f.*

– v.t. **-reled** or **relled** (away) прыхóўваць; адкладáць для пазьнéйшага ўжы́тку: ***She squirrelled away some of her food*** Янá схавáла напасьля́ чáстку сваíх харчóў

**stab** [stæb] – v.t. **(-bb-)** 1. прабівáць, рáніць (*чым вóстрым*). 2. Figur. рáніць: ***The mother was stabbed to the heart by her son's lack of gratitude*** Як нож у сэ́рца былá для мáці сы́нава няўдзя́чнасьць

– n. 1. а) удáр -у *m.* (*асабл. чым вóстрым*). б) рáна. 2. рáненьне (*пачýцьцяў*). 3. Informal спрóба *f.*

• ***have*** or ***make a stab at*** спрабавáць, рабíць спрóбу

• ***stab in the back*** нечакáная здрáда

**stability** [stəˈbɪləti] n., pl. **-ties** 1. трывáласьць, устóйлівасьць, стабíльнасьць *f.* 2. вы́трыманасьць (*харáктару*), непахíснасьць *f.* 3. астóйлівасьць *f.* (*карабля́*)

**stabilization** [ˌsteɪbɪləˈzeɪʃən] n. стабілізáцыя *f.*, стабілізавáньне *n.*

**stabilize** [ˈsteɪbəlaɪz] v.t. стабілізавáць рабíць устóйлівым (*валю́ту*), астóйлівым (*карабéль*)

**stable I** [ˈsteɪbəl] – n. 1. стáйня *f.* 2. хлеў -явá *m.* 3. бегавы́я кóні аднагó ўлáсьніка, каню́шня *f.*, кóнны завóд

– v.t. стáвіць у стáйню, трымáць у стáйні

• ***stables***, pl. стáйні і манэ́жная пляцóўка

**stable II** [ˈsteɪbəl] adj. 1. устóйлівы, стабíльны; трывáлы: ***stable currency*** устóйлівая валю́та; ***stable foundation*** трывáлы падмýрак. 3. астóйлівы (*самалёт*)

**stack** [stæk] – n. 1. стог -а *m.*, тарпá *f.*, торп -а *m.*, сьцíрта *f.*. 2. штáбéль -я *m.*: ***a stack of wood*** штáбель дрóваў. 3. Informal кýпа *f.*

– v.i. 1. стагавáць, складáць у стог. 2. складáць дрóвы ў штáбелі

• ***stacks*** а) кнíжныя палíцы. б) кнігасхóвішча

**stadium** [ˈsteɪdiəm]n., pl. **-diums**, **-dia** стадыён -у *m.*

**staff** [stæf] n., pl. **staves** (*for 1, 2*), or **staffs** (*for 3*) 1. кі|й -я *m.*; жэрдка *f.*; кол кала́, *m.* 2. ма́чта *f.* 3. працаўнікі́ *pl.*, пэрсана́л -у *m.*: ***office staff*** канцыля́рскі пэрсана́л; ***editorial staff*** рэдакцы́йны пэрсана́л, рэдакцы́йная кале́гія. 4. Milit. штаб -у *m.*
• ***musical staff*** пяць но́тных ліне́ек

**staff officer** штабны́ афіцэ́р

**stag** [stæg] n. 1. але́нь-саме́ц. 2. жарабе́ц -ца́ *m.* 3. са́м|ец -ца *m.* (*і́ншых зьвяро́ў*). 3. Informal a) кавале́р бяз да́мы (*на ве́чары*). б) кавале́рская вечары́нка

**stage** [steɪdʒ] – n. 1. ста́дыя, фа́за *f.*; эта́п -у *m.* 2. сцэ́на, эстра́да *f.*, пазмо́ст -у *m.* 3. тэа́т|ар -ру *m.*; дра́ма *f.*; акто́рства -а *n.*: ***to write for the stage*** піса́ць для тэа́тру. 4. пераго́н -у *m.*, прыпы́н|ак -ку *m.*, ста́нцыя *f.*
– v.t. 1. ста́віць п'е́су (*на сцэ́не*), інсцэнізава́ць. 2. право́дзіць фа́замі. 3. Figur. разы́грываць, падрабля́ць, інсцэнізава́ць: ***The boxing match was staged*** Баксёрскі матч быў інсцэнізава́ны
– v.i. быць сцэні́чным, быць адпаве́дным для інсцэніза́цыі

**stagecoach** [ˈsteɪdʒkoʊtʃ] n. дыліжа́нс -а *m.*

**stagger** [ˈstægər] – v. 1. хіста́цца (*ідучы́*). 2. вага́цца (*ад нязэ́ўнасьці*). 3. зало́мвацца, паддаваа́цца. 4. ашаламля́ць: ***He was staggered by the news of his friend's death*** Яго́ ашаламі́ла ве́стка аб сьме́рці ся́бра
– n. 1. хіста́ньне *n.* 2. вага́ньне *n.*

**staggering** [ˈstægərɪŋ] adj. 1. ашаламля́льны, жахлі́вы. 2. агро́мністы, веліча́зны

**stagnant** [ˈstægnənt] adj. 1. засто́йны. 2. за́тхлы. 3. Figur. ле́ны, вя́лы; тупы́

**stagnation** [stægˈneɪʃən] n. засто́|й -ю *m.*, засто́йнасьць *f.*: ***industrial stagnation*** засто́й у прамысло́васьці

**stain** [steɪn] – n. 1. пля́ма *f.* 2. пля́ма *f.*, цен|ь -ю *m.*, га́ньба *f.* (*на рэпута́цыі*). 3. фа́рба *f.*; каляро́вы пако́ст
– v.t. 1. пля́міць, запля́мваць. 2. га́ньбіць, зьнеслаўля́ць (*рэпута́цыю*). 3. фарбава́ць, афарбо́ўваць: ***to stain a microscopic specimen*** афарбава́ць мікраскапі́чны прэпара́т

**stained glass** вітра́ж -а́ *m.*

**stainless** [ˈsteɪnləs] adj. бяз пля́мы (-аў), чы́сты, беззага́нны

**stainless steel** нержаве́ючая сталь

**stair** [ster] n. прысту́пка *f.*, прысту́п|ак -ка *m.* (*схо́даў*)
• ***stairs,*** pl. схо́ды *pl.*

**staircase** [ˈsterkeɪs] n. схо́ды *pl.*

**stairwell** [ˈsterwel] n. ле́сьвічная кле́тка, ша́хта *f.*

**stake** [steɪk] – n. 1. кал|о́к -ка́ *m.*; кол кала́ *m.*, ты́чка *f.* 2. ста́ўка *f.* (*у гульні́ на гро́шы*)
– v.t. 1. прывяза́ць да калка́, падпіра́ць кало́м; абгаро́джваць калка́мі. 2. рызыкава́ць; рабі́ць ста́ўку (*у гульні́*)
• ***at stake*** паста́ўлены на ка́рту, на ры́зыку
• ***stakes,*** pl. вы́йгрыш на го́нках *або́* ў спабо́рніцтве
• ***the stake*** a) слуп, да яко́га прывя́звалі асу́джанага на спале́ньне. б) спале́ньне жывы́м

**stale I** [steɪl] – adj. 1. чэ́рствы: ***stale bread*** чэ́рствы хлеб. 2. нясьве́жы, які́ вы́тхнуўся (*напр. пі́ва*). 3. Figur. ста-ры́, састарэ́лы, плы́ткі: ***a stale joke*** стары́ жарт; анэкдо́т з барадо́ю
– v.i. 1. чарсьцьве́ць. 2. вытыха́цца

**stale II** [steɪl] – n. мача́ *f.* (*каня́, бы́дла*)
– v.i. мачы́цца (*пра каня́, бы́дла*)

**stalemate** [ˈsteɪlmeɪt] – n. 1. мат -у *m.* (*у ша́хматах*). 2. безвыхо́днае стано́вішча, тупі́к -а́ *m.*
– v.t. 1. ста́віць у безвыхо́днае стано́вішча. 2. ста́віць ма́т

**stalk I** [stɔ:k] – n. 1. сьцябло́ *n.*, сьцяблі́нка *f.* 2. чарано́к, хвост|о́к -ка́ *m.* (*ліста́*); но́жка *f.* (*ча́ркі*); пладано́жка *f.*: ***cabbage stalk*** хра́пка *f.* 3. высо́кі фабры́чны ко́мін

**stalk II** [stɔ:k] – v.i. 1. падкрада́цца (*да дзічы́ны*). 2. ісьці́ крадко́м. 3. пашы-

ра́цца, шы́рыцца: ***Disease stalked through the land*** Хвaро́ба шы́рылася ў краі́. 4. кро́чыць ганары́ста
– n. 1. напы́шлівая хада́. 2. падкра́дваньне *n.*

**stall I** [stɔ:l] – n. 1. ста́йня *f.*, хлleў -ява́ *m.* 2. сто́йла *n.* 3. кіёск -а *m.* 4. Brit. ме́сцы ў пе́ршых радо́х партэ́ру (*у тэа́тры*). 5. адзі́н з па́льцаў пальча́ткі
– v.t. 1. ста́віць жывёліну ў сто́йла. 2. затры́мваць, прыпыня́ць
– v.i. 1. стая́ць у хляве́, ста́йні *або́* сто́йле. 2. затры́мвацца, спыня́цца (*пра аўтамашы́ну*). 3. заграза́ць. 4. тра́ціць ху́ткасьць (*пра самалёт*)

**stall II** [stɔ:l] v. адця́гваць, цягну́ць, ухіля́цца, мару́дзіць: ***You have been stalling long enough*** Хо́піць табе́ мару́дзіць

**stallion** [ˈstæljən] n. жараблéц -ца́ *m.*

**stamen** [ˈsteɪmen] n., Bot. тычы́нка *f.*

**stamina** [ˈstæmɪnə] n. жыцьцёвая сі́ла; жыву́часьць *f.*; трыва́ласьць, вытрыва́ласьць *f.*

**stammer** [ˈstæmər] – v.i. заіка́цца; запіна́цца
– n. заіка́ньне *n.*; запі́нка *f.*

**stammerer** [ˈstæmərər] n. заі́кla -і *m.&f.*

**stammering** [ˈstæmərɪŋ] – adj. заі́клівы, заіка́сты
– n. заіка́ньне *n.*

**stamp** [stæmp] – v.t. ту́пацъ: ***to stamp one's foot in anger*** ту́пнуць нагóю са зло́сьці. 2. адбіва́ць, урэ́зваць: ***His words were stamped on my mind*** Яго́ныя сло́вы мо́цна ўрэ́заліся мне ў па́мяць. 3. абіва́ць: ***to stamp the snow from one's boots*** абіва́ць сьнег з бо́таў. 4. выбіва́ць узо́ры, на́дпісы. 5. ста́віць пяча́тку; штэмплява́ць. 6. накле́йваць ма́рку (*на ліст*)
– n. 1. пашто́вая ма́рка. 2. штэ́мпелlь -я *m.;* пяча́тка *f.* 3. ту́пат -у *m.*, ту́паньне *n.*. 4. адбі́тlак -ку *m.*: ***Her face bore the stamp of suffering*** На е́йным аблі́ччы ляжа́ў адбі́так паку́ты. 6. тып, скла́д -у *m.*: ***Men of his stamp are rare*** Мужчы́ны яго́нага скла́ду трапля́юцца рэ́дка
• ***stamp out*** а) затапта́ць. б) сі́лай здушы́ць, зьні́шчыць

**stampede** [stæmˈpi:d] – n. 1. пані́чныя ўцёкі (*ста́тку, нато́ўпу*). 2. стыхі́йны ма́савы рух. 3. каўбо́йскія спабо́рніцтвы
– v.i. пані́чна ўцяка́ць, разьбяга́цца
– v.t. выклі́каць пані́чныя ўцёкі

**stamp pad** паду́шачка для пячаткі

**stand** [stænd] – v.i. **stood, standing** 1. стая́ць. 2. устава́ць: ***He stood when she entered the room*** Ён уста́ў, калі́ яна́ ўвайшла́ ў пако́й. 3. стая́ць за *што*: ***to stand for fair play*** стая́ць за справядлі́вы падыхо́д. 4. трыва́ць; зно́сіць; цярпе́ць: ***Some plants cannot stand cold*** Некато́рыя расьлі́ны ня мо́гуць перано́сіць хо́ладу. 6. дзе́яць, застава́цца ў сі́ле: ***the law still stands*** зако́н яшчэ́ ў сі́ле
– v.t. ста́віць: ***Stand the box here*** Паста́ў скры́нку сюды́
– n. 1. стая́ньне *n.* 2. спыне́ньне *n.*, прыпы́нlак -ку *m.*: ***to bring to a stand*** спыні́ць, затрыма́ць. 3. супраці́lў -ву *m.*: ***to take a stand against*** даць супраці́ў, супраці́віцца. 4. прыпы́нlак -ку *m.* (*вандро́ўнага тэа́тру*): ***a one-night stand*** прыпы́нак для аднаго́ спэкта́клю. 5. ме́сца *n.*; пазы́цыя *f.* 6. пункт гле́джаньня, гле́дзішча *n.*, пагля́д -у *m.* 7. стая́нка *f.*: ***a stand for taxis*** or ***a taxi stand*** стая́нка таксі́. 8. кіёск, стэнд -а *m.*, падста́ўка, этажэ́рка *f.* 9. ні́ва, ураджа́й на ко́рані: ***a good stand of wheat*** густа́я ні́ва пшані́цы. 10. а) трыбу́на *f.* б) пульт -а *m.*: ***conductor's stand*** дырыге́нцкі пульт
• ***stand a chance*** мець ша́нец
• ***stand by*** а) быць паблі́зу. б) стая́ць на *чыі́м* баку́; дапамага́ць *каму́*; падтры́мваць *каго́*, в) датры́мваць: ***to stand by one's promise*** датрыма́ць абяца́ньне, г) быць напагато́ве
• ***stand for*** а) прадстаўля́ць, стая́ць за *каго́*. б) быць кандыда́там
• ***stand in*** а) быць у даве́ры. б) замяшча́ць

• ***stand on*** а) грунтава́цца на *чым*; залéжаць ад *чагó*. б) дамагáцца
• ***stand out*** а) выдавáцца, вытыркáцца, утвара́ць вы́ступ, б) вылучáцца; кі́дацца ў вóчы, в) не здавáцца, трымáцца. г) вы́трываць да канцá
• ***stand up*** а) устáць. б) вы́трымаць выпрабавáньне
• ***stand up for*** вы́ступіць у абарóне *кагó*, заступíцца за *кагó*
• ***stand up to*** адвáжна сустракáць *што*, быць на вышыні́
**standard** [ˈstændərd] – n. 1. мéрка, нóрма *f.*: ***to be not up to standard*** не адпавядáць нóрме. 2. узрó|вень -ўню, стандáрт -у *m.*: ***standard of living*** жыцьцёвы ўзрóвень. 3. эталён -у *m.* 4. парытэ́т -у *m.*: ***the gold standard*** парытэ́т зóлата. 5. бáза вáртасьці (*валю́ты*). 6. сьцяг, штандáр -а *m.*, эмблéма *f.*, сы́мбал|ь -ю *m.* 7. падстáўка *f.*, стая́к -á *m.*: ***The floor lamp has a long standard*** Ля́мпа мáе высóкі стая́к
– adj. 1. нармáльны, стандáртны. 2. тыпóвы. 3. унармавáны: ***standard language*** унармавáная мóва
**standardbearer** [ˈstændərdˌberər] n. 1. сьцяганóс|ец -ца *m.*, сьцяжні|ы́ -óга *m.*, харýж|ы -ага *m.* (*у вóйску*). 2. правады́р -á *m.*
**standardize** [ˈstændərdaɪz] v.t. стандартызавáць, нармалізавáць: ***The parts of an automobile are standardized*** Чáсткі аўтамабíля стандартызавáныя
**standing** [ˈstændɪŋ] – n. 1. станóвішча *n.* (*у грамáдзтве*), рэпутáцыя *f.*: ***men of good standing*** лю́дзі з дóбрай рэпутáцыяй. 2. стаж -у *m.* 3. трывáньне *n.*, праця́гласьць *f.*: ***of long standing*** праця́глы, дáўны. 4. стая́ньне *n.*
– adj. 1. які́ стаíць, стая́чы: ***a standing lamp*** стая́чая ля́мпа; ***standing water*** стая́чая вада; ***standing ovation*** авáцыі стóячы. 2. стáлы: ***a standing invitation*** стáлыя запрóсіны; ***a standing army*** рэгуля́рнае вóйска
**standpoint** [ˈstændpɔɪnt] n. глéдзішча *n.*, пункт глéджаньня
**standstill** [ˈstændstɪl] n. 1. пóўнае спынéньне. 2. перапы́н|ак -ку *m.*, заці́шша *n.* 3. тупі́к -á *m.* (*у перамóвах*)
**stand-up** [ˈstændʌp] adj. стая́чы: ***a stand-up collar*** стая́чы каўнéр; ***a stand-up meal*** перакýска стóячы
**stank** [stæŋk] v., *p.t. of* **stink**
**stanza** [ˈstænzə] n. страфá *f.* (*у вéршы*)
**staple I** [ˈsteɪpəl] – n. 1. прабó|й -я *m.* 2. сашчэ́пка, скóбка *f.*
– v.t. 1. зачыня́ць на прабóй. 2. сшывáць, сашчэ́пліваць (*папéры*); брашуравáць
**staple II** [ˈsteɪpəl] – n. 1. аснóўны прадýкт. 2. сыраві́на *f.* 3. валакнó *n.*
– adj. 1. найважнéйшы, вáжны, галóўны: ***a staple subject of conversation*** галóўная тэ́ма гýтаркі. 2. вырóшчваны вялíкімі кóлькасьцямі
**stapler** [ˈsteɪplər] n. сашчэ́пнік, стэ́плер -а *m.*
**star** [stɑːr] – n. 1. зóрка *f.* 2. зóрка, славýтасьць *f.*: ***a motion-picture star*** кіназóрка. 3. лёс -у *m.*, дóля *f.*, кон -у *m.*
– v.t. 1. адзначáць зóркаю (*слóвы тэ́ксту*). 2. адыгрываць вядýчую рóлю, быць зóркай: ***She has starred in many motion pictures*** Янá ігрáла галóўныя рóлі ў шмат які́х фíльмах.
– adj. вядýчы, выдáтны: ***a star performer*** вядýчы актóр
• ***he saw stars*** ямý аж íскры з вачэ́й пасы́паліся
• ***North Star*** Паля́рная зóрка
• ***thank one's (lucky) stars*** дзя́каваць лёсу за ўдáчу
**starch** [stɑːrtʃ] – n. 1. крухмáл -у *m.* 2. Figur. штýчная нацягнутасьць. 3. Informal энэ́ргія, жвáвасьць *f.*, запáл -у *m.*
– v.t. крухмáліць, накрухмáльваць
• ***starches,*** pl. крухмáлістыя прадýкты (*як бýльба, кукурýза*)
**starchy** [ˈstɑːrtʃi] adj. 1. крухмáлісты. 2. крухмáльны, накрухмáлены. 3. наця́гнуты; штýчны, начапýраны
**stare** [ster] – v.i. узірáцца, утарóпвацца: ***to stare at someone*** утарóпіцца ў нéкага

– n. пільны *або* зьдзіўлены пóзірк

• ***stare (a person) up and down*** зьмéраць *каго́* пóзіркам

• ***stare one in the face*** а) быць відавóчным, я́ўным, быць навідавóку: ***Are you looking for a pencil? It's staring you in the face*** Шукáеш алавíк? Ён у цябé пад нóсам. б) быць няўхíльным: ***ruin stares him in the face*** яму́ пагражáе крах

**starfish** [ˈstɑːrfɪʃ] n., pl. **-fish** or **-fishes,** Zool. марскáя зóрка

**stark** [stɑːrk] – adj. 1. скачанéлы. 2. пóўны: ***stark nonsense*** пóўная бязглу́зьдзіца. 3. пану́ры, сурóвы: ***stark landscape*** сурóвы краявíд

– adv. зусíм: ***stark naked*** зусíм гóлы

**starling** [ˈstɑːrlɪŋ] n. шпак -á *m.*

**starlit** [ˈstɑːrlɪt] adj. зóрны: ***a starlit night*** зóрная ноч

**starry** [ˈstɑːri] adj. сьвéтлы ад зор; усéяны зóркамі, зóрны: ***a starry sky*** зóрнае нéба

**Stars and Stripes** сьцяг ЗША (*зóркі й палóсы*)

**start** [stɑːrt] – v.i. 1. пачынáцца: ***The play started at nine*** П'éса пачалáся а дзявя́тай. 2. ру́шыць, адыхóдзіць: ***The train started on time*** Цягнік адыйшóў у пару́. 3. усхóпвацца; уздры́гваць: ***He started in surprise*** Ён уздры́гнуў ад нечакáнасьці

– v.t. 1. пачынáць: ***to start work*** пачáць прáцу; ***to start an argument*** пачáць спрэ́чку; ***to start a fire*** распалíць вóгнішча; ***He started his son in business*** Ён дапамóг сы́ну пачáць бíзнэс. 2. пускáць у рух, запускáць, стартавáць: ***to start the engine*** запусьцíць матóр. 3. спу́джваць: ***to start a rabbit*** спу́дзіць зáйца

– n. 1. пачáт|ак -ку *m.* 2. Sport старт -у *m.*, лíнія стáрту. 3. уздры́гваньне *n.*; падскóк -у *m.*: ***to wake up with a start*** прахапля́цца, раптóўна прачынáцца. 4. Figur. штуршl|óк -кá *m.*, дапамога *f.*: ***to give someone a start*** дапамагчы́ *каму́* пачáць нéшта

• ***head start*** першавáга ў спабóрніцтве; дóбры пачáтак, фóра *f.*

• ***start in*** or ***out*** распачáць, узя́цца: ***He started out to write a book*** Ён узя́ўся пісáць кнíгу

• ***start up*** а) узьнікáць: ***a new idea has started up*** узьнíкла нóвая ду́мка. б) падхапíцца, ускóчыць. в) пускáць у рух, запускáць

**starter** [ˈstɑːrtər] n. 1. Sport стáртэр -а *m.* 2. Tech. стáртэр -а *m.*, пускавáя прылáда (*у аўтамабíлі, самалёце*)

**startle** [ˈstɑːrtəl] – v.t. палóхаць, спу́джваць; зьдзіўля́ць; засьпявáць зьнянáцку

– v.i. уздры́гваць

– n. пярэ́палах -у *m.*

**startling** [ˈstɑːrtlɪŋ] adj. нечакáны; надзвычáйны; ашаламля́льны; стрáшны

**starvation** [stɑːrˈveɪʃən] n. 1. галадáньне *n.*; галадóўля *f.*, гóлад -у *m.* 2. галаду́ха *f.*, галóдны час

**starve** [stɑːrv] – v.i. 1. памірáць з гóладу. 2. галадáць. 3. Informal быць мóцна галóдным, мóцна хацéць éсьці. 4. прáгнуць, мóцна жадáць: ***to starve for news*** прáгнуць навíнаў

– v.t. 1. мары́ць гóладам. 2. змушáць гóладам да *чаго́*

• ***starve down*** or ***out*** гóладам зму́сіць здáцца

• ***starve into*** змушáць гóладам: ***They starved the enemy into surrendering*** Гóладам яны́ прыму́сілі вóрага здáцца

**state** [steɪt] – n. 1. стан -у *m.* : ***He is in a state of uncertainty*** Ён у стáне няпэ́ўнасьці: ***Ice is water in a solid state*** Лёд – гэ́та вадá ў цьвёрдым стáне. 2. станóвішча *n.*; ранг -у *m.* 3. штат -у *m.*: ***the state of Alaska*** штат Аля́ска. 4. дзяржáва, адміністрáцыя *f.*

– v.t. казáць, выкáзваць; заяўля́ць: ***to state one's view*** вы́казаць свой пóгляд

– adj. дзяржáўны: ***State Department*** Дзяржáўны Дэпартáмэнт; ***state control*** дзяржáўны кантрóль

• ***be in a state,*** Informal быць узбудара́жаным, усхвалява́ным, прыгне́чаным

• ***lie in state*** ляжа́ць на по́куці, быць вы́стаўленым на разьвіта́ньне (*пра нябо́жчыка*)

**stateless** [ˈsteɪtləs] adj. без грамадзя́нства, беспадда́ны

**stately** [ˈsteɪtli] adj. ве́лічны; по́ўны го́днасьці

**statement** [ˈsteɪtmənt] n. 1. сьцьве́рджаньне *n.*, зая́ва *f.* 2. выка́званьне, паведамле́ньне *n.*: ***to make a statement*** заяві́ць. 2. справазда́ча *f.* (*грашо́вая*)

**statesman** [ˈsteɪtsmən] n., pl. **-men** дзяржа́ўны муж, палі́тычны дзя́яч

**stateswoman** [ˈsteɪtsˌwʊmən] n., pl. **-women** дзяржа́ўная, палі́тычная дзя́ячка

**static** [ˈstætɪk] – adj. 1. нерухо́мы. 2. статы́чны: ***static pressure*** статы́чны ціск. 3. стацыяна́рны (*і пра электры́чнае по́ле*); ста́лы, нязьме́нны
– n. 1. атмасфэ́рная электры́чнасьць. 2. атмасфэ́рныя перашко́ды (*у ра́дыё*)

**statics** [ˈstætɪks] n. ста́тыка *f.*, (*галіна́ мэха́нікі*)

**station** [ˈsteɪʃən] – n. 1. ме́сца *n.*, пункт -у *m.*: ***First Aid station*** перавя́зачны пункт. 2. уча́ст|ак -ка *m.*: ***police station*** паліцэ́йскі ўча́стак, пастару́н|ак -ку *m.* 3. ра́дыяста́нцыя *f.*; тэлеста́нцыя *f.* 4. чыгу́начная ста́нцыя; вакза́л -у *m.* 5. грама́дзкае стано́вішча, стано́вішча ў грама́дзтве
– v.t. 1. вызнача́ць ме́сца. 2. зьмяшча́ць, разьмяшча́ць: ***The soldiers were stationed in the barracks*** Салда́ты былі́ расквартарава́ныя ў бара́ках

**stationary** [ˈsteɪʃəneri] adj. 1. умацава́ны нерухо́ма, неперасо́ўны, стацыяна́рны: ***a stationary engine*** стацыяна́рны рухаві́к. 2. нерухо́мы. 3. ста́лы, нязьме́нны

**stationery** [ˈsteɪʃəneri] n. канцыля́рскія прыла́ды

**statistical** [stəˈtɪstɪkəl] adj. статысты́чны

**statistician** [ˌstætɪˈstɪʃən] n. статы́стык -а *m.*

**statistics** [stəˈtɪstɪks] n. статы́стыка *f.*

**statue** [ˈstætʃu:] n. ста́туя *f.*

**statuesque** [ˌstætʃuˈesk] adj. ве́лічны

**stature** [ˈstætʃər] n. 1. рост -у *m.*, вышыня́ *f.* (*чалаве́ка*): ***above average stature*** вышэ́йшы, чым сярэ́дняга ро́сту. 2. значэ́ньне *n.*, аўтарытэ́т -у *m.*

**status** [ˈsteɪtəs] n. 1. стано́вішча *n.*, стан -у *m.*: ***social status*** сацыя́льнае стано́вішча; ***the status of world affairs*** стан міжнаро́дных спра́ваў. 2. ста́тус -у *m.*

**status quo,** Lat. ста́тус кво

**statute** [ˈstætʃu:t] n. 1. зако́н -у *m.* (*пры́няты парля́мэнтам*). 2. дэкрэ́т -у *m.*, ура́давая пастано́ва. 3. стату́т -у *m.*

**statute book** збор зако́наў

**statute law** пі́саны зако́н

**statutory** [ˈstætʃətɔ:ri] adj. 1. які́ даты́чыць зако́ну, даты́чны зако́ну. 2. усталява́ны зако́нам: ***statutory offense*** злачы́нства, за якóе прадугле́джаная ка́ра

**stave** [steɪv] – n., *гл. такса́ма* **staff** 1. клёпка *f.* 2. кі́лй -я *m.*, жэ́рдка *f.* 3. ступе́нь драбі́ны, схо́даў. 4. страфа́ (*ве́ршу, пе́сьні*). 5. Mus. ***staves*** пяць но́тныхліне́ек
– v., **staved** or **stove, staving** 1. прабіва́ць, праламва́ць дзі́рку (*у бо́чцы, чаўне́*) ***to stave off*** адклада́ць, адця́гваць; прадухіля́ць: ***to stave off starvation*** прадухілі́ць гало́дную сьмерць

**stay I** [steɪ] – v.i. 1. застава́цца: ***to stay clean*** застава́цца чы́стым: ***Stay here till I call you*** Застава́йся тут, паку́ль я не паклі́чу. 2. а) жыць часо́ва; затры́мвацца, гасьцява́ць: ***She is staying with her aunt*** Яна́ жыве́ часо́ва ў сва́е цёткі; ***We stayed with our friends*** Мы затрыма́ліся ў на́шых знаёмых. б) ***to stay over night*** пераначава́ць. 3. ба́віцца; засе́джвацца: ***Don't stay (too) long*** Не засе́джвайся до́ўга. 4. спыня́цца, затры́мвацца: ***We have no***

***time to stay*** Мы ня ма́ем ча́су затрыма́цца даўжэ́й. 5. чака́ць. 6. трыва́ць
– v.t. 1. стры́мваць, затры́мваць. 2. спыня́ць. 3. адклада́ць: ***to stay judgment*** адкла́сьці прысу́д. 4. адтэрміно́ўваць
– n. 1. знахо́джаньне *n.*, по́быт -у *m.*: ***a pleasant stay in the country*** прые́мны по́быт на вёсцы. 2. перашко́да *f.*; абмежава́ньне *n.* (*у дзе́йнасьці*). 3. адтэрміно́ўка *f.*; прыпыне́ньне *n.*
• ***stay away*** трыма́цца во́ддаль
• ***stay out*** а) быць ня до́ма. б) перасе́дзець час гасьцява́ньня
• ***stay put*** стая́ць, застава́цца на ме́сцы

**stay II** [steɪ] n. падпо́рка *f.*; апо́ра *f.*
• ***stays*** гарсэ́т -а *m.*

**stay-at-home** [ˈsteɪətˌhoʊm] – n. дамасе́д -а *m.*, дамасе́дка *f.*
– adj. дамасе́дзкі

**steadfast** [ˈstedfæst] adj. 1. усто́йлівы, непахі́сны; ляя́льны: ***steadfast man*** непахі́сны чалаве́к. 2. вы́трыманы (*пра хара́ктар*). 3. усто́йлівы; мо́цны, трыва́лы

**steadfastness** [ˈstedfæstnəs] n. усто́йлівасьць, вы́трыманасьць, непахі́снасьць *f.*: ***steadfastness of character*** вы́трыманасьць хара́ктару; ***steadfastness of conviction*** непахі́снасьць перакана́ньня

**steady** [ˈstedi] – adj. 1. ста́лы; рэгуля́рны; нязьме́нны: ***steady progress*** ста́лы по́ступ. 2. мо́цны; усто́йлівы: ***a steady hand*** мо́цная, цьвёрдая рука́; ***steady boat (ship)*** усто́йлівы чо́вен (карабе́ль). 3. ро́ўны, раўнаме́рны (*пра крок*). 4. спако́йны, мо́цны; ураўнава́жаны (*пра чалаве́ка*): ***steady nerves*** спако́йныя, мо́цныя нэ́рвы. 5. непахі́сны, ста́лы, мо́цны: ***steady friendship*** ста́лая непахі́сная пры́язьнь. 6. ста́лы, пава́жны: ***a steady young man*** пава́жны малады́ чалаве́к. 7. Informal ста́лы, пастая́нны: ***Mary was his steady girl*** Муры́я была́ яго́най ста́лай сымпа́тыяй
– v.t. 1. прыво́дзіць у раўнава́гу; рабі́ць усто́йлівым. 2. ураўнава́жваць, супако́йваць
– interj. спако́йна! не хвалява́цца!
– adv. ста́ла, раўнаме́рна, непахі́сна
• ***go steady*** хадзі́ць з *кім*, сымпатызава́ць *каму́* (*пра хлапца́ й дзяўчы́ну*)

**steak** [steɪk] n. 1. біфштэ́кс -у *m.* 2. скрыль мя́са *або́* ры́бы (*для сма́жаньня*)

**steal** [sti:l] – v., **stole, stolen, stealing** 1. кра́сьці. 2. дзе́яць крадко́м: ***to steal a look at someone*** гля́нуць крадко́м на не́кага 3. ру́хацца, хадзі́ць цішко́м *або́* крадко́м, падкрада́цца: ***She stole out of the house*** Яна́ цішко́м вы́шмыгнула з ха́ты
– n. 1. Informal кра́дзеж -дзяжу́ *m.* 2. Informal скра́дзеная рэч. 3. Informal до́брая ку́пля, ама́ль дарэ́мшчына

**stealth** [stelθ] n. та́йны *або́* хі́тры ўчы́нак: ***by stealth*** крадко́м, бязь ве́дама

**stealthily** [ˈstelθɪli] adv. крадко́м, крадучыся; упо́тай, цішко́м

**stealthy** [ˈstelθi] adj. та́йны, патае́мны, скры́ты: ***stealthy glance*** по́зірк крадко́м: ***stealthy whisper*** патае́мны шэпт

**steam** [sti:m] – n. 1. па́ра *f.* 2. Informal сі́ла *f.*, энэ́ргія *f.*, энтузія́зм -у *m.*
– v.i. 1. парава́ць. 2. выпара́цца. 3. па́рыць, вары́ць па́рай. 4. прасава́ць пад па́рай. 5. Informal імча́цца
• ***let off steam,*** Informal вы́пусьціць па́ру
• ***run out of steam,*** Informal змары́цца, вы́біцца з сіл, стра́ціць імпэ́т

**steam bath** 1. ла́зьня, пары́лка *f.* 2. па́раньне ў ла́зьні

**steamboat** [ˈsti:mboʊt] n. параплáў -ва *m.*

**steam boiler** паравы́ кацёл, параві́к -а́ *m.*

**steam engine** паравы́ рухаві́к

**steamer** [ˈsti:mər] n. 1. параплáў -ва *m.* 2. паравo͏́з -а *m.* 3. парава́я кастру́ля

**steam heating** парaво́е ацяпле́ньне

**steam roller** 1. паравы́ като́к. 2. Informal неадо́льная сі́ла

**steamship** [ˈsti:mʃɪp] n. параплáў -ва *m*

**steel** [sti:l] – n. 1. ста́ль *f.* 2. рэч са ста́лі. 3. Figur. як сталь: ***nerves of steel*** жале́зныя нэ́рвы
– adj. стальны́, сталёвы, са ста́лі
– v.t. 1. пакрыва́ць ста́льлю. 2. Figur. гартава́ць (*сі́лу, хара́ктар*)

**steel blue** сінява́та-шэ́ры ко́лер

**steel wool** сталёвая рагóжка (*для шарава́ньня*)

**steelworks** [ˈsti:lwɜ:rks] n., pl. *or* sing сталеліцэ́йны заво́д, сталява́рня *f.*

**steely** [ˈsti:li] adj. 1. сталёвы. 2. мо́цны, цьвярды́ як сталь

**steelyard** [ˈsti:ljɑ:rd] n. бязьме́н -а *m.*

**steep I** [sti:p] – adj. 1. стро́мкі, стро́мы: ***steep bank*** стро́мкі бе́раг ракí; ***steep slope*** стро́ма *f.* 2. завысо́кі: ***a steep price*** празьме́рна высо́кая цана́
– n. стро́ма *f.*

**steep II** [sti:p] – v.t. мачы́ць; насто́йваць; зава́рваць
– v.i. 1. мо́кнуць (*у чым*), зава́рвацца; насто́йвацца; нацягва́ць (*пра гарба́ту, зёлкі*). 2. паглыбля́цца, акуна́цца: ***ruins steeped in gloom*** руíны патана́лі ў це́мры
– n. мачэ́ньне, насто́йваньне *n.*
• ***steeped in*** напо́ўнены, прася́кнуты *чым*

**steeple** [ˈsti:pəl] n. 1. сьпіча́стая ве́жа. 2. шпіль -я *m.* (*на царкве́*)

**steeply** [ˈsti:pli] adv. стро́мка

**steer I** [stɪr] – v.t. 1. кірава́ць стырно́м, стырнава́ць. 2. кірава́ць аўтамабíлем, самалётам. 3.право́дзіць (*праз нато́ўп*)
– v.i. 1. кірава́цца, накіро́ўвацьː ***The pilot steered for the harbor*** Стырнавы́ кірава́ўся ў порт. 2. ***This car steers easily*** Гэ́ты аўтамабíль лёгка кіру́ецца
• ***steer clear of*** трыма́цца здаля́, уніка́ць *каго́-чаго́*

**steer II** [stɪr] n. вы́легчаны малады́ бычо́к; малады́ вол

**steerage** [ˈstɪrɪdʒ] n. 1. стырнава́ньне *n.* 2. найтане́йшая кля́са на пасажы́рскім вадапла́ве

**steering committee** назіра́льная камíсія

**steering wheel** стырнаво́е ко́ла, руль -я́ *m.* (*аўтамабíля, вадапла́ва*), стырно́ *n.*

**steersman** [ˈstɪrzmən] n., pl. **-men** стырнавы́ -о́га *m.*, стырнаві́к -а́ *m.*

**stellar** [ˈstelər] adj. зо́рны, зо́рачны, зо́ркавы

**stem** [stem] – n. 1. сьцябло́ *n.* 2. чарано́к -ка́ *m.* (*лíста́, я́блыка*). 3. род -у *m.*; пле́мя *n.* 4. Gram. асно́ва *f.* (*сло́ва*). 5. нос вадапла́ва. 6. но́жка *f.* (*ча́ркі*)
– v.i. **(-mm-)** пачына́цца, пахо́дзіць
• ***stem from*** пахо́дзіць, запача́ткавацца ад *каго́-чаго́*

**stench** [stentʃ] n. смуро́д -у *m.*

**stenograph** [ˈstenəgræf] n. 1. стэнагра́ма *f.* 2. стэно́граф -а *m.*

**stenographer** [stəˈnɑ:grəfər] n. стэнагра́фіст -а *m.*, стэнагра́фíстка *f.*

**stenographic** [stenəˈgræfɪk] adj. 1. стэнаграфíчны. 2. сьцíслы, лякані́чны (*пра стыль*)

**stenography** [stəˈnɑ:grəfi] n. стэнагра́фія *f.*

**step** [step] – n. 1. крок -у *m.*: ***step by step*** крок за кро́кам, ма́ла-пама́лу, паступо́ва); ***The school is only a step away*** Шко́ла ўсягó за па́ру кро́каў; ***a slow step*** паво́льны крок (*у хадзе́, та́нцы*). 2. такт -у *m.*: ***to keep step*** а) ісьцí (нагá) ў нагу́. б) ісьцí ў такт пад му́зыку. 3. прысту́пка *f.*; ступе́нь *f.*, схо́дка *f.* 4. сьлед -у *m.*: ***steps in the mud*** сьляды́ ў бало́це
– v.i. **(-pp-)** кро́чыць, сяга́ць; ісьцí: ***Step lively!*** Хутчэ́й ідзí!; ***Step this way*** Хадзе́це сюды́
– v.t. 1. ме́раць адле́гласьць кро́камі. 2. ступа́ць, наступа́ць: ***to step on a worm*** наступíць на чарвяка́
• ***be out of step*** а) ісьцí ня ў такт, не ў нагу́. б) не гарманíзава́ць, не згаджа́цца
• ***change step*** зьмянíць нагу́ (*маршыру́ючы ці ідучы́*)

***• in step*** а) у такт (*ісьці, маршыраваць*). б) дзеяць у згоднасьці зь іншымі; быць у згодзе
***• step aside*** саступіць убок, адыйсьці
***• step down*** а) сысьці далоў. б) падаць у адстаўку
***• step in*** а) увайсьці (*у пакой, дом*); уступіць (*у ваду*). б) умяшацца ў *што*; узяць удзел у *чым*
***• step on it*** прысьпешваць; хутчэй!
***• step out*** выйсьці; Informal пайсьці павесяліцца
***• step up*** 1. узыходзіць, узьнімацца. 2. Informal павышаць, павялічваць (*вытворчасьць*). 3. падыходзіць наперад
***• take steps*** прымаць меры, ужываць захады
***• watch one's step*** быць асьцярожным, абярэжлівым

**stepbrother** [ˈstepˌbrʌðər] n. зводны брат
**stepdaughter** [ˈstepˌdɔ:tər] n. падчарка *f.*
**stepfather** [ˈstepˌfɑ:ðər] n. айчым -а *m.*
**stepmother** [ˈstepˌmʌðər] n. мачыха *f.*
**stepparent** [ˈstepˌperənt] n. айчым *або* мачыха
**stepsister** [ˈstepˌsɪstər] n. зводная сястра
**stepson** [ˈstepsʌn] n. пасынlак -ка *m.*
**stereo** [ˈsterioʊ] – n. 1. стэрэафанія *f.* 2. апарат для стэрэафанічнае рэпрадукцыі. 3. Informal стэрэафанічнае радыё, прайгравальнік. 4. стэрэатып -у *m.*
– adj. стэрэафанічны
**stereotype** [ˈsteriətaɪp] n. стэрэатып -у *m.*
**sterile** [ˈsterəl] adj. 1. стэрыльны, стэрылізаваны. 2. неўрадлівы, бясплодны: ***sterile land*** а) аблога, ялавіна *f.* б) неўрадлівая зямля. 3. бясплодны, ялавы: ***a sterile cow*** ялавая карова, ялаўка *f.* 4. няплодны (*пра расьліны*): ***sterile flower*** пустацьвет -а *m.* 5. бясплодны, бясплёнcorrect, які не дае вынікаў, бескарысны (*пра працу, натугі*): ***sterile hopes*** бясплодныя надзеі
**sterility** [stəˌrɪləti] n., pl. **-ties** 1. бясплоднасьць *f.* 2. стэрыльнасьць *f.* 3. бясплённасьць, бескарыснасьць *f.*
**sterilization** [ˌsterələˈzeɪʃən] n. стэрылізацыя *f.*
**sterilize** [ˈsterəlaɪz] v.t. 1. стэрылізаваць (*прылады, ваду*). 2. штучна абясплоджваць. 3. рабіць непрадуктыўным, бескарысным, беспрыбытковым
**sterling** [ˈstɜ:rlɪŋ] – n. 1. стэрлінг -а *m.* (*брытанскія грошы*). 2. чыстае срэбра
– adj. 1. чысты (*мэтал, манэта*). 2. арыгінальны; дасканалы, надзейны
**sterling silver** чыстае срэбра (*92,5-працэнтнае*)
**stern I** [stɜ:rn] adj. 1. строгі, суровы: ***a stern master*** строгі гаспадар; ***a stern frown*** сурова насупленыя бровы. 2. цьвярды, жорсткі, упарты: ***stern resolve*** цьвярдая пастанова. 3. суровы, панууры: ***stern mountains*** суровыя горы
**stern II** [stɜ:rn] n. карма *f.* (*вадаплава*)
**sternmost** [ˈstɜ:rnmoʊst] adj. 1. найбліжэйшы да кармы. 2. найбольш задні
**sternward(s)** [ˈstɜ:rnwərdz] adv. у кірунку кармы
**sternway** [ˈstɜ:rnweɪ] n. рух караблі ўзад
**stew** [stu:] – v.t. тушыць: а) ***stewed meat*** тушанае мяса, тушаніна, тушонка *f.* б) ***stewed fruit*** кампот -у *m.*
– v.i. Informal хвалявацца, непакоіцца
– n. 1. тушаніна, тушонка *f.* 2. Informal турботы *pl.*, непакоlй -ю *m.*; згрызота *f.*: ***in a stew*** поўны турботаў, згрызотаў
**steward** [ˈstu:ərd] n. 1. аканом -а *m.* 2. пастаўнік харчоў (*для клюбу, карабля*). 3. сьцюард -а *m.*: ***a dining room steward*** афіцыянт -а *m.*: ***a deck steward*** сьцюард на палубе
**stewardess** [ˈstu:ərdəs] n. сьцюардэса *f.*
**stewpan** [ˈstu:pæn] n. каструля для тушэньня
**stick I** [stɪk] n. кілй -я*m.*, кілёк -йка *m.*, палка *f.*; калlок -ка *m.*: ***a walking stick*** кіёк для хады: ***a hockey stick*** клюшка *f.*
**stick II** [stɪk] – v.t., **stuck, sticking** 1. тыркаць, прабіваць. 2. утыркваць, утыкаць: ***He stuck a flower in his but-***

***tonhole*** Ён уткнýў квéтку ў пяцéльку. 3. натыкáць, насáджваць. 4. ляпíць; клéіць (*мáрку на канвэ́рт*). 5. прычаплянца, прылíпáць: ***to be stuck with*** ня мець магчы́масьці адчапíцца ад *кагó*
– v.i. 1. приставáць, прылíпáць; прыляплянца; прыклéйвацца да *кагó-чагó*: ***The nickname stuck to him*** Мянýшка прыстáла да ягó. 2. загразáць; засядáць: ***Our car stuck in the mud*** Нáшая машы́на засéла ў балóце. 3. трымáцца: ***to stick to the job*** трымáцца прáцы; ***to stick to one's friends in trouble*** не пакідáць прыя́целяў у бядзé; ***to stick to the point*** трымáцца тэ́мы
– n. 1. удáр, уты́к -у *m.* 2. лíпкасьць, ліпýчасьць *f.* 3. спынéньне *n.*, застóй -ю *m.*
• ***stick around*** заставáцца паблíзу, чакáць паблíзу
• ***stick out*** а) тырчэ́ць; вытыркáцца, выдавáцца; быць на відý, б) Informal цярплíва перанóсіць да сáмага канцá
• ***stick together*** трымáцца рáзам, падтры́мваць адзíн аднагó

**sticker** [ˈstɪkər] n. 1. наклéйка, налéпка *f.* 2. бадзя́к -á *m.*, калю́чка *f.*

**stickiness** [ˈstɪkinəs] n. 1. лíпкасьць, ліпýчасьць *f.* 2. пáрнасьць *f.*

**sticky** [ˈstɪki] adj. 1. лíпкі, ліпýчы, клéйкі: ***sticky glue*** ліпýчы клéй; ***sticky flypaper*** папéра-ліпýчка для мух. 3. Informal пáрны: ***sticky weather*** пáрнае надвóр'е, пáрнасьць. 4. Informal цяжкí, непрыéмны: ***a sticky problem*** непрыéмная праблéма

**stiff** [stɪf] adj. 1. цьвярды́, нягнýткі: ***a stiff collar*** цьвярды́ каўнéр; ***stiff cardboard*** нягнýткі картóн. 2. тугí: ***a stiff cord*** тýга наця́гнуты шнурóк; ***stiff dough*** тугóе цéста. 3. адубянéлы: ***He was stiff and sore*** У ягó ўсё цéла адубянéла і ны́ла ад бóлю. 4. нацягнуты; сухí: ***a stiff style*** сухí стыль. 5. зацяты, упáрты: ***a stiff resistance*** упáрты супрацíў. 6. мóцны, рэ́зкі (*пра вéцер*). 7. Figur. цяжкí, строгí: ***a stiff examination*** цяжкí экзáмэн. 8. сурóвы: ***a stiff penalty*** сурóвае пакарáньне. 9. мóцны: ***a stiff drink*** мóцны напóй. 10. Informal завысóкі, непамяркóўны: ***a stiff price*** высóкая цанá

**stiffen** [ˈstɪfən] – v.t. рабíць цьвярды́м, нягнýткім, напрýжаным
– v.i. 1. тужэ́ць, застывáць, гусьцéць. 2. мацнéць: ***The wind was stiffening*** Вéцер мацнéў

**stiffening** [ˈstɪfənɪŋ] n. 1. зацьвярдзéньне, застывáньне *n.* 2. узмацнéньне *n.* 3. падбíўка *f.*

**stiff-necked** [ˌstɪfˈnekt] adj. упáрты

**stifle** [ˈstaɪfəl] – v., **-fled, -fling** v.t. 1. душы́ць, не дазваляць ды́хаць (*пра дым*). 2. стры́мваць (*сьлёзы, усьмéшку, пазяхáньне*). 3. душы́ць; спыня́ць (*дзéйнасьць*): ***to stifle a rebellion*** здушы́ць бунт
– v.i. душы́цца: ***I am stifling in this hot room*** Я задыхáюся ў гэ́тым дýшным пакóі

**stigma** [ˈstɪgmə] n., pl. **stigmas** *or* **stigmata** 1. гáньба, пля́ма *f.* 2. знак -у *m.*, кляймó *n.* 3. Bot. ры́льца пéсьціка

**stigmata** [ˌstɪgˈmɑːtə] n. 1. *pl. of* **stigma** 2. стыгмáты (*рáны як у Хрыстá*)

**stigmatize** [ˈstɪgmətaɪz] v.t. 1. ганьбавáць; сурóва асуджáць. 2. кляймавáць

**still I** [stɪl] – adj. 1. нерухóмы, бяз рýху; спакóйны: ***to stand, sit or lie still*** стая́ць, сядзéць *абó* ляжáць нерухóма, спакóйна. 2. а) цíхі: ***a still night*** цíхая ноч. б) спакóйны: ***The lake is still today*** Вóзера сёньня спакóйнае; ***a still small voice*** цíхі, спакóйны гóлас
– v.t. 1. супакóйваць, суцішáць. 2. наталя́ць, заспакóйваць (*гóлад, смáгу*)
– v.i. супакóйвацца
– n. ціш, цішыня́ *f.*: ***the still of the night*** цішыня́ нóчы
– adv. 1. усё яшчэ́: а) ***He came yesterday and he is still here*** Ён прыбы́ў учóра і ён яшчэ́ тут; ***The matter is still unsettled*** Спрáва яшчэ́ дагэ́туль ня ўлáджана 2. нерухóма, бяз рýху; пацíху

– conj. тым ня менш, усё ж: ***He is dull, still he tries hard*** Ён тупы́, тым ня менш ён вéльмі старáецца

• ***still more*** нáват больш, яшчэ́ больш

• ***still worse*** нáват горш, яшчэ́ горш

**still II** [stɪl] n. 1. перагóнны апарáт. 2. вінакýрня *f.*, брóвар -у *m.*

**stillborn** [ˈstɪlbɔːrn] adj. 1. мёртванарóджаны. 2. Figur. неажыцьцяўля́льны: ***stillborn hopes*** надзéі, які́м ня сýджана зьдзéйсьніцца, неажыцьцяўля́льныя надзéі

**still life** натурмóрт -а *m.*

**stillness** [ˈstɪlnəs] n. 1. цішыня́, ціш *f.*; маўчáньне *n.*, маўклі́васьць *f.* 2. нерухóмасьць *f.*, супакóй -ю *m.*

**stimulant** [ˈstɪmjələnt] – n. 1. узбуджáльны срóдак. 2. сты́мул -у *m.*: ***Hope is a stimulant*** Надзéя ёсьць сты́мулам

– adj. узбуджáльны, стымулю́ючы

**stimulate** [ˈstɪmjəleɪt] – v.t. 1. заахвóчваць, падбадзёрваць, пабуджáць (*да дзéйнасьці*). 2. узбуджáць, стымулявáць

– v.i. быць сты́мулам

**stimulation** [ˌstɪmjəˈleɪʃən] n. заахвóчваньне; узбуджáньне *n.*

**stimulus** [ˈstɪmjələs] n. **-li** сты́мул -у *m.*; пабуджáльная прычы́на

**sting** [stɪŋ] – v.t. **stung, stinging** 1. джгаць, джáліць; кусáць (*пра зьмяю́*); калóць. 2. пячы́: ***Mustard stings*** Гарчы́ца пячэ́. 3. стрыкáць, апякáць: ***nettle stung his legs*** крапівá апякáла ямý нóгі. 4. апякáць: ***stung by a spark*** апéчаны íскраю. 5. Figur. мóцна кры́ўдзіць, рáніць (*насьмéшкамі, кпíнамі*)

– v.i. стрыкáцца, апякáцца, пячы́ся

– n. 1. уджáленае мéсца. 2. джáла *n.*

**stinger** [ˈstɪŋər] n. 1. джáла *n.* 2. насякóмае, якóе джáліць. 3. Informal éдкі адкáз *або́* заўвáга

**stinginess** [ˈstɪndʒinəs] n. скýпасьць, скнáрлівасьць *f.*

**stingy** [ˈstɪndʒi] adj. скупы́, скнáрлівы

**stink** [stɪŋk] – n. 1. смурóд -у *m.* 2. Figur., Informal бýча *f.*: ***to raise a stink*** падня́ць бýчу, скандáл

– v.i. **stank** or **stunk, stunk, stinking** 1. непрыéмна пáхнуць, сьмярдзéць. 2. смурóдзіць

**stinker** [ˈstɪŋkər] n. мярзóтнік, гад -а *m.*

**stint** [stɪnt] – v.t. уразáць (*напр. выдáткі*); зьмяншáць; абмяжóўваць

– v.i. 1. ашчаджáць. 2. абыхóдзіцца малы́м

– n. 1. мяжá *f.*, абмежавáньне *n.*: ***He gives without stint*** Ён даé без канцá. 2. прыдзéленая рабóта

**stipend** [ˈstaɪpend] n. 1. жáлаваньне *n.* 2. стыпэ́ндыя *f.*

**stipulate** [ˈstɪpjəleɪt] v. стáвіць умóву; абумóўліваць

**stir** [stɜːr] – v.t. **(-rr-)** 1. варушы́ць, рýхаць: ***The wind stirs the leaves*** Вéцер варýшыць лісты́. 2. мяшáць; разьмéшваць: ***to stir sugar into one's coffee*** разьмяшáць цýкар у кáве. 3. хвалявáць, кранáць: ***words that really stir the soul*** слóвы, якíя запраўды́ кранáюць душý

– v.i. 1. варушы́цца: ***They dare not stir*** Яны́ не навáжваюцца варухнýцца. 2. заварушы́цца: ***The countryside was stirring with new life*** Вакóліца зажылá нóвым жыцьцём. 3. разьмéшвацца: ***This dough stirs hard*** Гэ́тае цéста ця́жка разьмéшваецца

– n. 1. рух -у *m.* 2. хвалявáньне *n.* 3. мяшáньне *n.*

• ***stir oneself*** узварухнýцца, завіхáцца

• ***stir up*** a) падымáць да дзéйнасьці, навóдзіць, заахвóчваць. б) выклікáць (*свáрку*); падбухтóрваць: ***stir up a mutiny*** падбухтóрыць да бýнту

**stirring** [ˈstɜːrɪŋ] adj. 1. сумятлíвы, дзéйны: ***stirring times*** сумятлíвыя часы́. 2. натхня́льны: ***stirring speech*** натхня́льная прамóва

**stirrup** [ˈstɜːrəp] n. стрэ́мя *n.*

**stitch** [stɪtʃ] – n. 1. стрóчка *f.*, шво *n.* 2. шво *n.* (*у хірургíі*): ***to take the stitches out of the wound*** зьняць швы з рáны. 3. вóчка *n.* (*у вязáньні*): ***to drop a stitch*** спусьціць вóчка; ***to take up a stitch*** падня́ць вóчка

– v.t. 1. страчы́ць; штабнава́ць. 2. шыць, сшыва́ць

**stitching** [ˈstɪtʃɪŋ] n. 1. штабнава́ньне, страчэ́ньне *n.* 2. стро́чка *f.*

**stock** [stɑ:k] – n. 1. тава́р, запа́с -у *m.*: ***a large stock of toys*** вялі́кая ко́лькасьць заба́вак. 2. пагало́ўе *n.* 3. сырaві́на *f.* 4. род -у *m.*; пахо́джаньне *n.* 5. а́кцыя *f.*: ***oil stocks*** на́фтавыя а́кцыі. 6. нава́р -у *m.* (*зь мя́са, гаро́дніны*), ю́шка *f.* (*з ры́бы*). 9. каме́ль *або́* пень дрэ́ва

– v.t. 1. забясьпе́чваць. 2. запа́сіць, рабі́ць запа́с: ***to stock up for the winter*** зрабі́ць запа́с на зіму́. 3. трыма́ць на скла́дзе (*у кра́ме*)

• ***in stock*** на скла́дзе; нaя́ўны для про́дажу

• ***out of stock*** распрада́ны (*пра тава́р*)

• ***stock a farm*** абзаве́сьціся жывёлаю для гаспада́ркі

• ***stock a lake with fish*** напо́ўніць во́зера ры́бай

• ***take stock*** інвэнтарызава́ць (*тава́р, маёмасьць*)

• ***take stock in*** купля́ць а́кцыі (*у кампа́ніі*)

• ***take stock of*** ацэ́ньваць

**stockboy** [ˈstɑ:kbɔɪ] n. рабо́тнік на скла́дзе

**stock breeder** жывёлагадо́|вец -ўца *m.*

**stockbroker** [ˈstɑ:kˌbroʊkər] n. біржавы́ ма́клер

**stock exchange** фіна́нсавая бі́ржа

**stockholder** [ˈstɑ:kˌhoʊldər] n. акцыянэ́р -а *m.*, ула́сьнік а́кцыяў

**stocking** [ˈstɑ:kɪŋ] n. панчо́ха *f.*

**stock market** 1. бі́ржа *f.* (*фіна́нсавая*). 2. цэ́ны а́кцыяў і аблiга́цыяў

**stock raising** жывёлагадо́ўля

**stock-still** [ˌstɑ:kˈstɪl] adj. нерухо́мы

**stock-taking** [ˈstɑ:kˌteɪkɪŋ] n. 1. улі́к тава́ру, інвэнтарыза́цыя *f.* 2. ацэ́ньваньне *n.*

**stocky** [ˈstɑ:ki] adj. прыса́дзісты, каржакава́ты

**stockyard** [ˈstɑ:kjɑ:rd] n. заго́н для жывёлы

**stoic** [ˈstoʊɪk] *or* **stoical** [ˈstoʊɪkəl] adj. стаі́чны, вытрыва́лы

**stoke** [stoʊk] v.t. падтры́мваць аго́нь

**stoker** [ˈstoʊkər] n. 1. качага́р -а *m.*, кацэ́льны машыні́ст. 2. мэхані́чная печ, сто́кэр -а *m.*

**stole I** [stoʊl] n. 1. ша́лік -а *m.*, накі́дка *f.*: ***mink stole*** накі́дка з но́ркавага фу́тра

**stole II** [stoʊl] v., *p.t. of* **steal**

**stolen** [ˈstoʊlən] v., *p.p. of* **steal**

**stolid** [ˈstɑ:ləd] adj. абыя́кавы; флегматы́чны

**stolidity** [stəˈlɪdəti] n., pl. **-ties** абыя́кавасьць, флегматы́чнасьць *f.*

**stomach** [ˈstʌmək] – n. стра́ўнік -а *m.*; жыв|о́т -ата́ *m.*; трыбу́х -а́ *m.*

– v.t. 1. перава́рваць,ператраўля́ць. 2. Figur. цярпе́ць; трыва́ць: ***He could not stomach such insults*** Ён ня мог сьцярпе́ць такі́х зьнява́гаў

• ***turn one's stomach*** ну́дзіць, рабі́цца мо́ташна

**stomp** [stɑ:mp] v.i. ця́жка ступа́ць, ту́паць

**stone** [stoʊn] – n. 1. ка́мен|ь -я *m.* 2. ка́мен|ь -ю *m., coll.* (*матэрыя́л*). 3. надгро́бны ка́мень. 4. кашто́ўны ка́мень, самацьве́т -у *m.* 5. Med. ка́мен|ь -я *m.* (*у ны́рках, жо́ўці*). 6. зярня́тка *n.*, ко́стачка (*сьлі́вы, ві́шні, пэ́рсіка*)

– adj. 1. каме́нны. 2. гліня́ны.

– v.t. 1. выклада́ць ка́менем. 2. кі́даць камяня́мі; каменява́ць. 3. выма́ць зярня́ткі: ***to stone cherries or plums*** выма́ць зярня́ткі зь ві́шань або́ сьлі́ваў

• ***cast the first stone*** быць пе́ршым у асуджэ́ньні, ганьбава́ньні

• ***leave no stone unturned*** зрабі́ць усё магчы́мае.

**Stone Age** Каме́нны век

**stone-blind** [ˌstoʊnˈblaɪnd] adj. зусі́м сьляпы́

**stone-broke** [ˌstoʊnˈbroʊk] adj. без гроша́ за душо́ю

**stone-deaf** [ˌstoʊnˈdef] adj. зусі́м глухі́

**stonemason** [ˈstoʊnˌmeɪsən] n. 1. камянячóс -а *m.* 2. мýляр -а *m.*

**stoneware** [ˈstoʊnwer] n. паліва́ны гліня́ны пóсуд

**stonework** [ˈstoʊnwɜ:rk] n. 1. мурава́ньне, камéнная мурóўка. 2. камéнны падмýрак, сьцяна́. 3. камéнная скульптýра

**stony** [ˈstoʊni] adj. 1. камяні́сты: ***a stony beach*** камяні́сты пляж. 2. цьвярды́, як ка́мень, камéнны. 3. скамянéлы: ***a stony stare*** пóзірк бяз вы́разу й пачуцьця́; ***a stony heart*** камéннае сэ́рца

**stood** [stʊd] v., *p.t., p.p. of* **stand**

**stooge** [stu:dʒ] n. 1. напа́рнік кóміка ў тэа́тры. 2. пры́хвасьлцень -ня *m.*; марыянэ́тка *f.* 3. стука́ч -á *m.*

**stool** [stu:l] – n. 1. услóн -а *m.*, зэ́дlаль -ля *m.*; стóлlак, стóлачlак -ка *m.*, табурэ́тка *f.* 2. Med. стул -у *m.*, спаражнéньне *n.* 3. кóрань *абó* пень, які́ пуска́е па́расткі

– v.i. пуска́ць па́расткі

**stoop I** [stu:p] – v.i. 1. нахіля́цца: ***to stoop over a desk*** нахіля́цца над пісьмóвым сталóм. 2. гóрбіцца. 3. пахіля́цца, нагіна́цца. 4. спуска́цца, апуска́цца: ***to stoop to cheating*** апусьці́цца да ашука́нства

– n. 1. нахіля́ньне *n.* 2. згóрбленьне *n.*

**stoop II** [stu:p] n. 1. га́нlак -ку *m.* 2. пóрцік -а *m.*

**stooped** [stu:pt] adj. нахі́лены; пахі́лены; згóрблены

**stop** [stɑ:p] – v.t. **(-pp-)** 1. затры́мваць, спыня́ць. 2. стры́мваць, затры́мваць: ***to stop supplies*** стрыма́ць пастáўкі. 3. суніма́ць, спыня́ць: ***to stop a noise*** суня́ць гóман. 4. затыка́ць; зама́зваць, зала́джваць: ***to stop a hole*** заткнýць дзі́рку; ***to stop a leak*** зама́заць працёк; ***to stop a wound*** спыні́ць крывацёк з ра́ны. 5. адбіва́ць, адхіля́ць (*уда́р*)

– v.i. 1. прыпыня́цца, спыня́цца: ***to stop at a hotel*** спыні́цца ў гатэ́лі. 2. спыня́цца; сьціха́ць: а) ***all work stopped*** усяя пра́ца спыні́лася. б) ***the rain stopped*** дождж сьціх. 3. затры́мвацца, спыня́цца: ***to stop for a red light*** затрыма́цца на чырвóным сьвятлé

– n. 1. спынéньне *n.*; перапы́нlак -ку *m.*, затры́мка *f.*: ***to bring to a stop*** спыні́ць; ***to come to a stop*** спыні́цца. 2. па́ўза *f.*; перапы́нlак -ку *m.* 3. прыпы́нlак -ку *m.*, пры́ста́нlак -ку *m.*: ***The train goes through without a stop*** Цягні́к прахóдзіць без прыпы́нку. 4. крóпка *f.*, пункт -а *m.* (*знак прыпы́нку*). 5. канléц -цá *m.*: ***to put a stop to*** спыні́ць *што*, пакла́сьці канéц *чамý*

• ***stop by*** зайсьці́ да *кагó*, навéдаць *кагó*

• ***stop off*** прыпыні́цца па дарóзе

**stopover** [ˈstɑ:pˌoʊvər] n. перапы́нак у падарóжжы

**stoppage** [ˈstɑ:pɪdʒ] n. 1. спынéньне, затрыма́ньне *n.* 2. перашкóда *f.*

**stopper** [ˈstɑ:pər] – n. за́тычка *f.*; кóрlак -ка *m.*; шпунт -а *m.*

– v.t. затыка́ць кóркам, за́тычкай

**storage** [ˈstɔ:rɪdʒ] n. 1. перахава́ньне, захава́ньне *n.* (*прадýктаў, рэ́чаў*). 2. схóвішча *n.*, склад -у *m.*: ***She has put her furniture in storage*** Яна́ аддала́ сваю́ мэ́блю на захава́ньне ў схóвішча. 3. Electr. акумуля́ваньне *n.*

• ***cold storage*** а) халадзі́льня. б) хава́ньне ў халадзі́льні

**storage battery** акумуля́тар -а *m.*

**store** [stɔ:r] – n. 1. кра́ма *f.*, магазы́н -а *m.* 2. склад -у *m.* 3. запа́с -у *m.*

– v.t. 1. пастаўля́ць; забясьпéчваць *чым.* 2. запаса́ць, назапа́шваць, рабі́ць запа́с. 3. кла́сьці ў склад, трыма́ць у скла́дзе

• ***in store*** а) ная́ўны; напагатóве, гатóвы. б) у запа́се

**storehouse** [ˈstɔ:rhaʊs] n. склад -у *m.*

**storekeeper** [ˈstɔ:rˌki:pər] n. 1. кра́мнік -а *m.*, кра́мніца *f.* 2. кладаўшчы́к -á *m.*

**storey**, esp. Brit. [ˈstɔ:ri] n., pl. **-reys** or **-ries** *гл.* **story II**

**storeyed** or **storied** [ˈstɔ:rid] adj. павярхо́вы: ***a two-storeyed house*** двухпавярхо́вы дом

**storied** [ˈstɔ:rid] adj. апі́саны, праслáўлены (*у апавядáньнях, гісто́рыі*)

**stork** [stɔ:rk] n. бу́сел -ла *m.*

**storm** [stɔ:rm] – n. бу́ра *f.*, шторм -у *m.* 2. навальні́ца *f.* 3. пяшчáны ураґáн (*у пусты́ні*). 4. Figur. град -у *m.*: ***a storm of arrows*** град стрэ́лаў. 5. пато́к -у *m.*: ***a storm of tears*** пато́к сьлёзаў. 6. Milit. штурм -у *m.*: ***The castle was taken by storm*** Зáмак быў узя́ты штýрмам
– v.t. 1. бушавáць (*пра бу́ру, вéцер*). 2. Figur. бушавáць, шалéць ад зло́сьці. 3. Figur. нéсьціся, імкну́цца зь сі́лай: ***to storm out of the room*** вы́скачыць з пако́ю. 4. Milit. штурмавáць

**storm door** знадво́рныя дзьвéры

**storm window** знадво́рнае акно́

**stormily** [ˈstɔ:rmɪli] adv. бу́рна, гвалто́ўна

**stormy** [ˈstɔ:rmi] adj. бу́рны, бурлі́вы (*мо́ра, надво́р'е; пасéджаньне, свáрка*)

**story I** [ˈstɔ:ri] n., pl. **-ries** 1. раскáз -у *m.*: ***to tell a story*** апавядáць, раскáзваць: ***Tell us the story of your life*** Раскажы́ нам пра сваё жыцьцё; ***as the story goes*** як раскáзваюць; ***to make a long story short*** ко́ратка кáжучы. 2. апавядáньне *n.*, апо́весьць *f.* 3. апо́вед -у *m.*, фáбула *f.* (*апо́весьці, п'éсы*). 4. Informal вы́думкі *pl.*, хлусьня́ *f.*, вы́мысел -слу *m.* 5. газэ́тны арты́кул, рэпартáж

**story II** [ˈstɔ:ri], n., pl. **-ries,** *гл.* **storey** павéрх -у *m.*

**storyteller** [ˈstɔ:riˌtelər] n. 1. апавядáльнік -а *m.*, апавядáльніца *f.* 2. кáзачнік, бáечнік -а, балі́й -я *m.* 3. Informal вы́думшчык -а *m.*; пляткáр -á *m.*, пляткáрка *f.*

**stout** [staʊt] – adj. 1. мажны́, таўсты́, то́ўсты, дзябёлы, паўнацéлы (*пра чалавéка*). 2. мо́цна збудавáны, мо́цны, трывáлы: ***The fort has stout walls*** Форт мáе мо́цна збудавáныя сьцéны. 3. му́жны; адвáжны. 4. непадаўкі́; упáрты, зацяты: ***stout resistance*** зацяты супраці́ў. 5. мо́цны, ду́жы: ***a stout horse*** ду́жы конь
– n. 1. мо́цнае, цёмнае пі́ва. 2. мажны́ чалавéк

**stoutness** [ˈstaʊtnəs] n. 1. дзябёласьць *f.* 2. мо́цнасьць, трывáласьць *f.* 3. му́жнасьць, сто́йкасьць, усто́йлівасьць *f.*; адвáга *f.*

**stout-hearted** [ˌstaʊtˈhɑ:rtɪd] adj. му́жны; адвáжны

**stove I** [stoʊv] n. кухо́нная плітá, печ *f.*

**stove II** [stoʊv] v., *p.t. and p.p. of* **stave**

**stovepipe** [ˈstoʊvpaɪp] n. 1. бляшáны ко́мін, дымавáя трубá. 2. Informal цылі́ндар -ра *m.* (*капялю́ш*)

**stow** [stoʊ] v.t. 1. грузі́ць, нагружáць: ***to stow a ship*** грузі́ць вадаплáў. 2. шчы́льна пакавáць; запаўня́ць: ***They stowed the little cabin with supplies for the trip*** Малу́ю кабі́ну яны́ запо́ўнілі запáсамі для падаро́жжа
• ***stow away*** éхаць зáйцам

**stowaway** [ˈstoʊəˌweɪ] n. безьбілéтны пасажы́р (*на вадаплáве, самалёце*)

**straddle** [ˈstrædəl] – v.t. сядлáць
– v.i. 1. раськівэ́чвацца, раскарáчвацца. 2. сядзéць вéрхам (*на кані́*). 4. Informal быць двaі́стым (*і нáшым, і вáшым*), сядзéць на пло́це

**straggle** [ˈstrægəl] v.i. 1. разбрыдáцца, ісьці́ ўразбро́д. 2. адбівáцца (*ад рэ́шты*): ***to straggle from a herd*** адбі́цца ад стáтку. 3. бязлáдна разрастáцца

**straight** [streɪt] – adj. 1. про́сты, про́сталінéйны: ***a straight line*** про́стая лі́нія; ***a straight path*** про́стая сьцéжка. 2. ро́ўны. 3. про́сты; шчы́ры; сумлéнны: ***a straight question*** шчы́рае пытáньне. 4. прáвільны: ***straight thinking*** прáвільнае ду́маньне. 5. упарáдкаваны. 6. неразьвéдзены, чы́сты: ***straight whisky*** неразьвéдзенае ві́скі. 7. Informal натурáл -а *m.* (*не гамасэксуалі́ст*)
– adv. 1. про́ста. 2. ро́ўна. 3. шчы́ра: ***Tell me straight what you think*** Ска-

жы́ мне шчы́ра, што ты ду́маеш. 4. сумле́нна: ***to live straight*** сумле́нна жыць. 3. про́ста, наскро́зь: ***to drive straight on*** е́хаць про́ста дале́й. 4. неадкла́дна

• ***straight away*** or ***off*** за́раз жа, адра́зу

**straight angle** разго́рнуты, пло́скасны кут (*180 гра́дусаў*)

**straighten** [ˈstreɪtən] – v.t. 1. выпро́стваць. 2. пара́дкава́ць: ***Straighten up your room*** Спара́дкуй свой пако́й. 3. даво́дзіць да ла́ду: ***We must straighten out accounts*** Мы му́сім даве́сьці да ла́ду на́шыя раху́нкі

– v.i. 1. выпро́стваца. 2. Informal выпраўля́цца, папраўля́цца

**straightforward** [ˌstreɪtˈfɔ:rwərd] adj. 1. сумле́нны; шчы́ры, адкры́ты. 2. які́ ідзе́ *або́* вядзе́ про́ста напе́рад; про́сты, про́сталіне́йны

**straightforward(s)** [ˌstreɪtˈfɔ:rwərdz] adv. про́ста

**straightforwardness** [ˌstreɪtˈfɔ:rwərdnəs] n. просталіне́йнасьць *f.*, шчы́расьць, адкры́тасьць *f.* (*хара́ктару*)

**straightway** [ˈstreɪtweɪ] adv. за́раз жа, адра́зу, неадкла́дна

**strain I** [streɪn] – v. 1. наця́гваць; расьця́гваць: ***The weight strained the rope*** Цяжа́р нацягну́ў выро́ўку; ***to strain the tendon*** расьцягну́ць сухажы́льле. 2. мо́цна наця́гваць: ***The dog strained at his leash*** Саба́ка мо́цна рва́ўся з павадка́. 3. напру́жваць (*во́чы, ву́шы, го́лас*); намага́цца. 4. псава́ць, шко́дзіць: ***The runner strained his heart*** Бягу́н пашко́дзіў сабе́ сэ́рца. 5. цадзі́ць; працíра́ць (*праз сíта*)

– n. 1. наця́гненьне, расьця́гненьне *n.* 2. напру́жаньне *n.*; стрэс -у *m.* 3. Informal ціск -у *m.*, цяжа́р -у *m.*; гнёт -у *m.*: ***the strain of worry*** цяжа́р кло́патаў

**strain II** [streɪn] n. 1. пахо́джаньне *n.*, ра́са *f.*; род -у *m.*, паро́да *f.* 2. спа́дчынная ры́са. 3. ры́са хара́ктару

**strained** [streɪnd] adj. 1. наця́гнуты: ***Her greeting was cold and strained*** Ейнае прывіта́ньне было́ хало́дным і наця́гнутым. 2. працэ́джаны (*праз цадзі́лку*); праце́рты (*празь сíта*)

**strainer** [ˈstreɪnər] n. 1. фíльтр|ар -ра *m.*; рэ́шата, сíта *n.*; цадзі́лка *f.*; друшля́к -а́ *m.* 2. сьця́жка *f.*

**strait** [streɪt] n. пралí|ў -ву *m.*, прато́ка *f.*

• ***straits*** цяжко́е стано́вішча; нястá-чы *pl.*; бяда́ *n.*

**strait jacket** утаймава́льная кашу́ля

**strait-laced** [ˌstreɪtˈleɪst] adj. стро́гі, пуры́та́нскі

**strand I** [strænd] – v. 1. садзíцца *або́* садзíць на мель, загразáць. 2. Figur. се́сьці на мель, увя́знуць; прапа́сьці: ***He was stranded in a big city*** Ён запрапа́сьціўся ў вялíкім го́радзе

– n. бе́раг -у *m.*, узьбярэ́жжа (*ракí, во́зера, мо́ра*)

**strand II** [strænd] n. 1. па́сма *f.* : ***This is a rope of three strands*** Гэ́та выро́ўка з трох па́смаў; ***strand of hair*** па́сма валасо́ў. 2. валакно́ *n.*, во́лас -а *m.* 3. шнур|о́к -ка́ *m.* (*па́церак, пэ́рлаў*)

**strange** [streɪndʒ] – adj. 1. незвыча́йны; дзíўны: ***a strange accident*** незвыча́йны вы́падак. 2. незнаёмы, чужы́; невядо́мы: ***strange faces*** незнаёмыя тва́ры; ***a strange language*** незнаёмая мо́ва. 3. неазнаёмлены: ***strange to a job*** неазнаёмлены з пра́цай

– adv. дзíўна: ***I feel strange*** Мне не па сабе́

**strangely** [ˈstreɪndʒli] adv. 1. незвыча́йна, дзíўна. 2. чу́жа

**stranger** [ˈstreɪndʒər] n. 1. незнаём|ы, невядо́м|ы -ага *m.*, незнаёмая, невядо́мая *f.* 2. неазнаёмлен|ы -ага *m.* 3. чуж|ы́ -о́га *m.*, чужа́я *f.*, чужанí|ца -ы *m. & f.* 4. чужы́н|ец -ца *m.*, чужы́нка *f.*

**strangle** [ˈstræŋgəl] v.t. 1. душы́ць (*насьме́рць*). 2. цíснуць; душы́ць (*напр. пра каўне́р*). 3. душы́ць, прыглуша́ць (*боль, пазяха́ньне*)

**strangulate** [ˈstræŋgjəleɪt] v.t. 1. Med. перавя́зваць, перахапля́ць (*а́орту, кíшку*). 2. душы́ць

**strap** [stræp] – n. 1. рэ́м|ень -ня *m.* 2. мату́з -а́ *m.* 3. паго́ны *pl.* 4. раме́нная ру́чка (*у аўто́бусе, трамва́і*)

– v.t. **(-pp-)** 1. зьвя́зваць рэ́мнем *або́* матузо́м. 2. біць дзя́гай. 3 перавя́зваць (*ра́ну*)

**strapless** [ˈstræpləs] adj. без паго́наў; бяз шле́ек: ***a strapless evening gown*** вячэ́рняя суке́нка бяз шле́ечак, з адкры́тымі плячмі́

**strapping** [ˈstræpɪŋ] – adj., Informal мо́цны, здаро́вы, дў́жы
– n. 1. біцьцё дзя́гай. 2. завя́зка *f.*

**strata** [ˈstreɪtə] n., *pl. of* **stratum**

**stratagem** [ˈstrætədʒəm] n. падсту́пства *n.* (*вае́ннае*); хі́трасьць *f.*, падма́н -у *m.*

**strategic** [strəˈti:dʒɪk] *or* **strategical** [strəˈti:dʒɪkəl] adj. 1. стратэгі́чны. 2. ва́жны для стратэ́гіі: ***strategic raw material*** стратэгі́чная сыраві́на

**strategics** [strəˈti:dʒɪks] n. стратэ́гія *f.*

**strategist** [ˈstrætədʒɪst] n. стратэ́г -а *m.*

**strategy** [ˈstrætədʒi] n., pl. **-ies** 1. стратэ́гія *f.* (*вае́нная*). 2. уме́лае плянава́ньне

**stratification** [ˌstrætɪfɪˈkeɪʃən] n., Geol. напластава́ньне, залюга́ньне *n.*; пакла́д -у *m.*, пакла́ды *pl.*, стратыфіка́цыя *f.*

**stratosphere** [ˈstrætəsfɪr] n. стратасфэ́ра *f.*

**stratum** [ˈstreɪtəm] n., pl. **strata** or **stratums** 1. пласт -а́ *m.* 2. Geol. пласт -а́ *m.*, напластава́ньне *n.*, фарма́цыя *f.* 3. пласт -а́ *m.* (*грама́дзтва*): ***Tramps are from the lowest stratum of society*** Бадзя́гі паходзяць з найніжэ́йшага пласта́ грама́дзтва

**straw** [strɔ:] – n. 1. сало́ма *f.*, *coll.*, сало́міна, сало́мінка *f.* 2. сало́мінка *f.* (*для піцьця́*). 3. Figur. драбні́ца *f.*; дро́бязь *f.*: ***not worth a straw*** ні́чо́га ня ва́рты
– adj. 1. саламя́ны. 2. сьветла-жо́ўты ко́лер. 3. малава́ртасны; малава́жны; бязва́ртасны
• ***catch at a straw*** or ***straws*** хапа́цца за сало́мінку

**strawberry** [ˈstrɔ:ˌberi] n. суні́цы *pl.*; клубні́цы, труска́ўкі, труска́лкі *pl.*

**strawy** [ˈstrɔ:ɪ] adj. 1. саламя́ны. 2. кры́ты сало́маю

**stray** [streɪ] – v.i. 1. блудзі́ць; блука́ць, туля́цца, бадзя́цца; адбіва́цца (*ад ста́тку*). 2. зьбіва́цца з пра́вільнага шля́ху
– adj. які́ блука́е, туля́ецца, які́ заблудзі́ў, адбі́ўся ад грамады́, аблу́дны: ***stray dog*** бяздо́мны саба́ка
– n. бадзя́г|а, туля́г|а -і *m. & f.*; чалаве́к, які́ заблудзі́ў, жывёліна, што адбілася ад ста́тку
• ***strays,*** pl. атмасфэ́рныя перашко́ды (*у ра́дыё*)

**streak** [stri:k] n. 1. паласа́, пало́ска *f.*, по́шуг -у *m.*: ***We saw a streak of lightning*** Мы ба́чылі по́шуг мала́нкі. 2. жы́ла *f.* (*у ка́мені, ма́рмуры*); про́жыл|ак -ка *m.*: ***Side bacon has streaks of fat and streaks of lean*** Бо́чак ма́е про́жылкі са́ла й любо́вага мя́са. 3. Figur. жы́лка *f.*: ***He has a streak of humor*** Ён ма́е пачуцьцё гу́мару. 4. про́бліск -у *m.*: ***a streak of luck*** про́бліск шча́сьця
• ***like a streak*** ве́льмі ху́тка, мала́нкава

**stream** [stri:m] – n. 1. бру́я *f.*, струме́н|ь -я *m.*; руча́|й -я́, раўчу́к -а́ *m.* 2. плынь, плы́ня *f.* 3. пато́к -у *m.* (*крыві́, сьлёза́ў*). 4. праме́н|ь -я *m.*: ***a stream of light*** праме́нь сьвятла́
– v.i. 1. бруі́ць; бруі́цца; струме́ніць. 2. лі́цца, цячы́, цурчэ́ць. 3. разьвява́цца, луна́ць: ***Flags streamed in the wind*** Сьцягі́ разьвява́ліся на ве́тры

**streamer** [ˈstri:mər] n. 1. вы́мпел -а *m.* 2. ша́пка *f.* (*газэ́тны загало́вак*). 3. паласа́ паўно́чнага зьзя́ньня

**streamlet** [ˈstri:mlət] n. ручаё|к -йка́ *m.*

**street** [stri:t] – n. ву́ліца *f.*
– adj. ву́лічны
• ***man in the street*** чалаве́к ву́ліцы
• ***on easy street*** быць замо́жным
• ***out on the street*** быць бяздо́мным, жыць на ву́ліцы
• ***take to the streets*** выхо́дзіць на дэманстра́цыі

**streetcar** [ˈstri:tkɑ:r] – n. трамва́|й -я *m.*, тралейбус -а *m.*
– adj. трамва́йны, тралейбусны

**street lamp** *or* **light** ліхта́р -а́ *m.*

**streetwalker** [ˈstri:tˌwɔ:kər] n. прасты́тутка, ву́лічная жанчы́на, ву́лічны мужчы́на

**streetwear** [ˈstri:twer] прóстае, штодзённае адзéньне

**strength** [streŋθ] n. 1. моц *f.*; сíла *f.*, дýжасьць *f.* (*фізы́чная*). 2. моц, сíла *f.* (*марáльная*). 3. мацýн|ак -ку *m.*, моц *f.* (*напóю, раствóру*)

***• on the strength of*** згóдна з *чым* абó адпавéдна *чамý*; з падтры́мкай *абó* дапамóгай *кагó*

**strengthen** [ˈstreŋθən] – v.t. узмацня́ць; мацавáць, рабíць мóцным

– v.i. мацнéць, узмацня́цца

**strenuous** [ˈstrenjuəs] adj. 1. напрýжаны, цяжкí: ***We had a strenuous day moving into our new home*** Мы мéлі цяжкí дзень, калí перабірáліся ў нóвы дом. 2. энэргíчны; старáнны: ***a strenuous worker*** старáнны рабóтнік

**stress** [stres] – n. 1. ціск, нáціск, напóр, стрэс -у *m.* 2. напрýжаньне; намагáньне *n.* 3. нáціск -у *m.*; знáчаньне *n.* 4. Gram. нáціск -у *m.*

– v.t. 1. рабíць ціск, націскáць, напірáць; натýжваць. 2. Figur. падкрэ́сьліваць. 3. стáвіць нáціскі

**stretch** [stretʃ] – v.t. 1. расьця́гваць: ***to stretch the shoe a little*** расьцягнýць крыхý чаравíк. 2. працягваць: ***We stretched a wire across the path*** Мы працягнýлі дрот упóперак сьцéжкі. 3. распрóстваць (*плéчы, рýкі*) 4. працягваць, вы́цягваць: ***He stretched out his hand for the money*** Ён працягнýў рукý па грóшы. 5. наця́гваць (*струнý*). 6. Figur. рабíць нацяжку: ***to stretch the law*** рабíць нацяжку ў тлумачэ́ньні закóна; ***to stretch the truth*** перабóльшваць

– v.i. 1. цягнýцца, займáць прастóр: ***The forest stretches for miles*** Лес ця́гнецца на кілямэ́тры. 2. пацяга́вацца: ***to stretch oneself*** пацягвацца. 3. расьця́гвацца: ***Rubber stretches*** Гýма расьця́гваецца

– n. 1. прасьця́г -у *m.*: ***A stretch of sand hills lay between the road and the ocean*** Прасьця́г пяшчáных узгóркаў пралёг памíж дарóгай і акіянам. 2. праме́ж|ак -ку *m.* (*чáсу*); адлéгласьць *f.*: ***a long stretch*** далёкая дыстáнцыя. 3. разьмíнка *f.* 4. Sl. тэ́рмін зьнявóленьня. 5. расьця́гваньне *n.*; праця́гваньне *n.*

***• stretch one's legs*** а) вы́прастаць нóгі. б) разьмяць нóгі, прайсьцíся

**stretchable** [ˈstretʃəbəl] adj. расьцяжны́

**stretcher** [ˈstretʃər] n. 1. прылáда *абó* чалавéк, які́ расьця́гвае. 2. насíлкі *pl. only*

**strew** [stru:] v.t. **strewed, strewn** or **strewed** 1. сы́паць, рассыпáць, пасыпáць: ***She strewed seeds in her garden*** Янá пасéяла насéньне ў сваíм гарóдзе. 2. раскідáць

**strewn** [stru:n] v., *p.p. of* **strew**

**stricken** [ˈstrɪkən] – adj. 1. парáнены; прыбíты, прыгнóблены: ***terror-stricken*** ахóплены стрáхам; ***stricken by wounds*** парáнены; ***stricken by disease*** звáлены хварóбай; ***stricken by trouble*** у бядзé; ***the fire-stricken city*** гóрад, які пацярпéў ад пажáру

– v., *p.p. of* **strike**

***• stricken in years*** састарэ́лы

**strict** [strɪkt] adj. 1. патрабавáльны: ***strict but not unfair*** патрабавáльны, але справядлíвы. 2. стрóгі, сурóвы: ***strict discipline*** стрóгая дысцыплíна; ***a strict penalty*** сурóвая кáра. 3. Figur. даклáдны: ***He told the strict truth*** Ён сказáў чы́стую прáўду. 4. пóўны, абсалю́тны: ***to tell a secret in strict confidence*** сказáць сакрэ́т у пóўнай таямнíцы; ***strict neutrality*** пóўная нэўтрáльнасьць

**strictness** [ˈstrɪktnəs] n. 1. даклáднасьць, патрабавáльнасьць *f.* 2. стрóгасьць, сурóвасьць *f.*

**stricture** [ˈstrɪktʃər] n. 1. асуджэ́ньне, ганьбавáньне, гáненьне *n.*; крыты́чная заўвáга. 2. Med. звужэ́ньне (*канáлу, пратóкі ў арганíзьме*). 3. абмежавáньне *n.*

**stridden** [ˈstrɪdən] v., *p.p. of* **stride**

**stride** [straɪd] – v.i. **strode, stridden, striding** 1. крóчыць, сягáць. 2. перас-

тупа́ць, перасяга́ць: ***He strode over the brook*** Ён пераступі́ў праз раўчу́к
– v.t. 1. кро́чыць: ***to stride the streets*** кро́чыць па ву́ліцах. 2. сяда́ць, сядзе́ць ве́рхам: ***to stride a horse*** сядзе́ць ве́рхам на кані́
– n. 1. сяг|е́нь -ня́ *m.*, вялі́кі крок. 2. даўжыня́ кро́ку
• ***hit one's stride*** асягну́ць сваю́ нарма́льную ху́ткасьць *або́* прадукцы́йнасьць
• ***make great*** or ***rapid strides*** зрабі́ць вялі́кі по́ступ, ху́тка ру́хацца напе́рад
• ***take in stride*** прыйма́ць спако́йна, стры́мана

**strident** [ˈstraɪdənt] adj. рэ́зкі (*го́лас*), галасьлі́вы (*дамага́ньне*)

**strife** [straɪf] n. 1. сва́рка *f.*, разла́д -у *m.* 2. змага́ньне *n.*: ***bitter strife*** заўзя́тае змага́ньне

**strike** [straɪk] – v., **struck, struck** *or* **stricken, striking** 1. удара́ць; нано́сіць уда́р: ***to strike a person in anger*** ударыць каго́ са зло́сьці; ***strike a blow in self-defence*** нане́сьці ўда́р у самаабаро́не. 2. выбіва́ць, адбіва́ць, чака́ніць: ***to strike a medal*** адбі́ць мэда́ль. 3. высяка́ць (*аго́нь*), чы́ркаць, запа́льваць: ***to strike a match*** запалі́ць запа́лку. 3. здава́цца, ура́жваць, рабі́ць ура́жаньне: ***The plan strikes me as silly*** Плян здае́цца мне неразу́мным. 6. біць: ***It has just struck four*** То́лькі што прабі́ла чаты́ры. 7. мо́цна ўра́жваць, ахапля́ць: ***They were struck with terror*** Іх ахапі́ў жах. 8. атакава́ць: ***The enemy will strike at dawn*** Во́раг пачне́ ата́ку на до́сьвітку. 9. прыйсьці́ ў галаву́: ***An amusing thought struck her*** Заба́ўная ду́мка прыйшла́ ёй у галаву́. 10. бастава́ць, страйкава́ць: ***The coal miners struck*** Вуглякопы страйкава́лі. 11. выкрасьля́ць, выкасо́ўваць: ***Strike out the last word*** Вы́красьлі апо́шняе сло́ва; ***Strike his name off the list*** Вы́красьлі яго́нае імя́ са сьпі́су.10. сутыка́цца, урэ́звацца: ***The car struck a fence*** Машы́на ўрэ́залася ў плот
– n. 1. уда́р -у *m.* 2. адкрыццё пакла́даў (*руды, на́фты*); нечака́ная ўда́ча. 3. забасто́ўка *f.*, страйк -у *m.*
• ***on strike*** на стра́йку, на забасто́ўцы: ***to be on strike*** бастава́ць, страйкава́ць
• ***strike a balance*** падво́дзіць баля́нс
• ***strike an agreement*** прыйсьці́ да парадне́ньня
• ***strike it rich,*** Informal а) адкры́ць бага́тыя пакла́ды (*руды́, на́фты*). б) мець нечака́ную ўда́чу
• ***strike up*** пача́ць, завяза́ць: ***to strike up a friendship*** завяза́ць сябро́ўства, пасяброва́ць; ***to strike up a song*** пача́ць пяяць пе́сьню

**strike-bound** [ˈstraɪkbaʊnd] adj. ахо́плены стра́йкам

**strikebreaker** [ˈstraɪkˌbreɪkər] n. штрэйкбрэ́хер -а *m.*

**strikebreaking** [ˈstraɪkˌbreɪkɪŋ] n. прымусо́вае спыне́ньне стра́йку

**striker** [ˈstraɪkər] n. забасто́ўшчык -а, страйко|вец -ўца *m.*, забасто́ўшчыца *f.*

**striking** [ˈstraɪkɪŋ] adj. 1. які́ страйку́е. 2. які́ ўра́жвае, ура́жальны; імпаза́нтны, выда́тны

**string** [strɪŋ] – n. 1. шнур -а́ *m.*, шнур|о́к -ка́ *m.*: ***string of beads*** шнуро́к па́церак. 2. струна́ *f.*: ***the strings of a violin*** стру́ны скры́пкі. 3. чарада́ *f.*: ***A string of cars came down the street*** Чарада́ машы́наў гу́жам прайшла́ па ву́ліцы. 4. Informal умо́ва *f.*: ***an offer with strings attached to it*** прапано́ва з умо́вай, дада́дзенай да яе́. 5 валакно́ *n.*; жы́лка *f.* (*у расьлі́не*)
– v.t. **strung, strung** or (rare) **stringed, stringing** 1. ніза́ць, ані́зваць. 2. зьвя́зваць, прывя́зваць шнурко́м. 3. ве́шаць, падве́шваць: ***to string a picture*** паве́сіць карці́ну. 4. наця́гваць (*стру́ны*). 5. ру́хацца, е́хаць гу́жам (*адзі́н за адны́м*)
• ***on a string*** пад кантро́лем; на павадку́, у зале́жнасьці
• ***pull strings*** уплыва́ць, рабі́ць ціск

***• pull the strings*** кантралява́ць, кірава́ць

***• string out,*** Informal празьме́рна расьця́гваць (*прагра́му*)

***• strings,*** pl. а) стру́нныя інструмэ́нты. б) ча́стка арке́стру, яка́я склада́ецца са стру́нных інструмэ́нтаў

***• string up,*** Informal ве́шаць (*злачы́нца*)

**string bean** стручко́вая фасо́ля

**string instrument** стру́нны музы́чны інструмэ́нт

**string quartet** стру́нны квартэ́т

**stringy** [ˈstrɪŋi] adj. 1. валакні́сты. 2. цягу́чы. 3. жы́лісты: ***stringy meat*** жы́лістае мя́са

**strip I** [strɪp] v.t. **stripped** or (rare) **stript, stripping** 1. агаля́ць; разьдзява́ць дагала́. 2. разьдзява́ць; здыма́ць во́пратку. 3. абдзіра́ць, здыма́ць (*ску́рку, кару́*). 4. зьдзіра́ць; абіра́ць: ***to strip paper from a wall*** зьдзіра́ць шпале́ры са сьцяны́; ***to strip fruit from a tree*** абіра́ць садаві́ну з дрэ́ва. 5. пустошыць: ***to strip a house of its furniture*** вы́несьці з до́му мэ́блю. 6. рабава́ць, абкрада́ць; забіра́ць: ***Thieves stripped the house of everything valuable*** Зло́дзеі забра́лі з до́му ўсё каштоўнае. 7. выдо́йваць каро́ву дачы́ста (*не пакі́нуць малака́*)

***• strip of*** а) забіра́ць, адбіра́ць. б) пазбаўля́ць (*гро́шай, маёмасьці*). в) рабава́ць

**strip II** [strɪp] n. 1. паласа́, пало́ска *f.* (*ткані́ны, папе́ры, мэта́лу*). 2. шнур, пало́ска (*по́ля*); паласа́ (*ле́су, бало́та*). 3. узьлётна-паса́дачная паласа́ (*для самалётаў*). 4. паласа́ (*у газэ́це*): ***a comic strip*** паласа́ ко́міксаў (*у газэ́це*)

**stripe** [straɪp] n. 1. па́сl|ак -ка *m.*, пало́ска, паласа́ *f.*: ***A tiger has stripes*** Ты́гар ма́е шку́ру ў пало́скі. 2. ткані́на ў па́скі. 3. Figur. гату́н|ак -ку *m.*; тып -у *m.*: ***of quite a different stripe*** зусі́м і́ншага гату́нку

***• stripes,*** pl. нашы́ўкі (*на мундзі́ры*)

**striped** [straɪpt] adj. паласа́ты; у па́скі; з нашы́ўкамі: ***striped fabric*** ткані́на ў пало́скі

**stripling** [ˈstrɪplɪŋ] n. юна́к -а́ *m.*, падлетl|ак -ка *m.*

**striptease** [ˈstrɪpti:z] n. стрыпты́з -у *m.*

**strive** [straɪv] v.i. **strove** or **strived, striven, striving** 1. мо́цна стара́цца, імкну́цца дасягну́ць: ***strive for self-control*** стара́цца авало́даць сабо́ю; ***Always strive forward*** Заўсёды імкні́ся напе́рад. 2. змага́цца: ***The swimmer strove against the tide*** Плыве́ц змага́ўся з плы́ньню

**striven** [ˈstrɪvən] v., *p.p. of* **strive**

**strode** [stroʊd] v., *p.t. of* **stride**

**stroke I** [stroʊk] – n. 1. уда́р -у *m.*: ***stroke of lightning*** уда́р мала́нкі; ***They have not done a stroke of work*** Яны́ па́лец аб па́лец ня ўда́рылі. 2. уда́р (*гадзі́ньніка*): ***We arrived on the stroke of nine*** Мы прыбылі́ ро́ўна а дзявя́тай гадзі́не. 3. біцьцё *n.*, уда́р -у *m.* (*сэ́рца, пу́льсу*), пульсава́ньне *n.* 4. штрых -а́ *m* (*пэ́ндзля, пяра́*). 5. інсу́льт -у *m.* 6. (*у пла́ваньні*): грабl|о́к -ка́, узма́х -у *m.* 7 (*у веслава́ньні*): а) грабо́к вясло́м. б) кармавы́ вясьля́р

– v.i. 1. веслава́ць. 2. выкрэ́сьліваць, перакрэ́сьліваць

***• keep strokes*** трыма́ць такт

***• stroke of bad luck*** няўда́ча *f.*, цяжкі уда́р

***• stroke of fate*** уда́р лёсу

***• stroke of luck*** уда́ча *f.*

**stroke II** [stroʊk] v.i. гла́дзіць, ла́шчыць: ***She stroked the kitten*** Яна́ пагла́дзіла кацяня́тка

***• stroke the wrong way*** а) гла́дзіць супро́ць шэ́рсьці. б) злава́ць

**stroke oar** 1. кармаво́е вясло́. 2. кармавы́ вясьля́р

**stroll** [stroʊl] – v.i. 1. прахо́дзіцца; прагу́львацца. 2. вандрава́ць: ***strolling gypsies*** вандро́ўныя цыганы́

– n. прагуля́нка *f.*, шпа́цыр -у *m.*

**stroller** [ˈstroʊlər] n. 1. шпацыра́нт -а *m.* 2. вандро́ўны арты́ст. 3. бадзя́гl|а -і

*m.* 4. складны́ дзіця́чы вазо́к (*сядзя́чы для гуля́ньня*)

**strong** [strɔ:ŋ] adj. 1. ду́жы, мо́цны: ***a strong wind*** мо́цны ве́цер; ***a strong man*** ду́жы чалаве́к. 2. магу́тны: ***a strong nation*** мо́цны наро́д. 3. цьвёрды: ***a strong will*** цьвёрдая во́ля. 4. ко́лькасьцю: ***We were 100 strong*** Нас было́ 100 чалаве́к. 5. мо́цнадзе́йны: ***a strong poison*** мо́цнадзе́йная атру́та. 6. мо́цны, канцэнтрава́ны: ***a strong tea*** мо́цная гарба́та; ***a strong drink*** мо́цны алькаго́льны напо́й. 7. во́стры (*пах, прыпра́ва*)
• ***get stronger*** дужэ́ць, мацне́ць

**strong-arm** [ˈstrɔ:ŋɑ:rm] – adj., Informal які́ ўжыва́е сі́лу *або́* гва́лт, сілавы́: ***strong-arm methods*** сілавы́я мэ́тады
– v.t. ужыва́ць сі́лу *або́* гва́лт

**stronghold** [ˈstrɔ:ŋhoʊld] n. 1. цьвярды́ня, цытадэ́ль, крэ́пасьць *f.* 2. бясьпе́чнае ме́сца

**strongly** [ˈstrɔ:ŋli] adv. мо́цна

**strongman** [ˈstrɔ:ŋmæn] n., pl. **-men** 1. асі́л|ак -ка *m.* 2. дыкта́тар, дэ́спат -а *m.*

**strong-minded** [ˌstrɔ:ŋˈmaɪndɪd] adj. мо́цнай во́лі, валявы́; упа́рты, настойлівы

**strove** [stroʊv] v., *p.t. of* **strive**

**struck** [strʌk] v., *p.t. and p.p. of* **strike**

**structural** [ˈstrʌktʃərəl] adj. 1. будаўні́чы, канструкцы́йны: ***structural steel*** будаўні́чая сталь. 2. структу́рны

**structure** [ˈstrʌktʃər] – n. 1. будын|ак -ка *m.*, будыніна *f.* 2. будо́ва, структу́ра *f.*: ***the structure of a molecule*** будо́ва мале́кулы; ***the structure of society*** структу́ра грама́дзтва
– v.t. будава́ць

**struggle** [ˈstrʌgəl] – v.t. 1. змага́цца, хо́дацца: ***to struggle for a living*** змага́цца за кава́лак хле́ба; ***to struggle for freedom*** змага́цца за во́лю; ***to struggle against the difficulties*** змага́цца зь ця́жкасьцямі. 3. намага́цца, рабі́ць нату́гі: ***The old man struggled to his feet*** Стары́ чалаве́к з нату́гай устаў на но́гі
– n. 1. змага́ньне, хо́даньне *n.* 2. вы́сіл|ак-ку *m.*, намага́ньне *n.*

**strung** [strʌŋ] v., *p.t. and p.p. of* **string**

**strut I** [strʌt] v.i. хадзі́ць *або́* ісьці́ ве́лічна, го́галем

**strut II** [strʌt] – n. падпо́ра, падпо́рка *f.*
– v.t. падпіра́ць

**stub** [stʌb] – n. 1. аблóм|ак, агры́з|ак -ка *m.*: ***the stub of a pencil*** агры́зак алаві́ка́. 2. карэ́нчык -а *m.*, кане́ц біле́та, кві́та. 3. кало́да *f.*, абру́б|ак -ка *m.* (*дрэ́ва, пале́на*). 4. пень пня *m.* 5. недаку́р|ак -ка *m.*
– v.t. 1. выкарчо́ўваць; выко́пваць (*з ко́ранем*). 2. сту́кнуць нагой аб не́шта: ***to stub one's toe against the door sill*** спатыкну́цца аб паро́г 3. гасі́ць недаку́рак

**stubble** [ˈstʌbəl] n. 1. (і)ржэ́ўнік -у *m.*, (і)ржы́шча *n.* 2. шчаці́на, шчэць *f.*, шчаці́ньне *n.* (*на няго́леным тва́ры*)

**stubborn** [ˈstʌbərn] adj. 1. заця́ты: ***stubborn resistance*** заця́ты супраці́ў. 2. упо́рысты, упа́рты

**stubbornness** [ˈstʌbərnəs] n. заця́тасьць, упа́ртасьць *f.*

**stubby** [ˈstʌbi] adj. 1. прыса́дзісты; каржакава́ты (*пра чалаве́ка*); каро́ткі й таўсты́. 2. шчаці́ністы, са шчаці́най: ***a stubby beard*** шчаці́ністая барада́. 3. іржы́сты; пні́сты

**stucco** [ˈstʌkoʊ] – n., pl. **-coes, -cos** 1. тынк -у *m.*, атынко́ўка *f.* 2. тынкава́ньне
– v.t. тынкава́ць, атынко́ўваць

**stuck** [stʌk] v., *p.t. and p.p. of* **stick**
• ***get stuck*** загра́знуць, угру́знуць; засе́сьці

**stuck-up** [ˌstʌkˈʌp] adj. ганары́сты, фанабэ́рысты, задава́сты

**stud I** [stʌd] – n. 1. пле́шка, гало́ўка *f.* (*цьвіка́*). 2. за́пінка *f.* (*у адзе́ньні*). 3. шу́ла, сто́йка *f.* (*у будаўні́цтве*)
– v.t. **(-dd-)** усе́йваць, усы́пваць; раскі́дваць: ***gem-studded crown*** каро́на, усы́паная каштоўнымі камяня́мі

**stud II** [stʌd] – n. 1. ко́нны заво́д. 2. жарабе́ц -ца́ *m.* .

– adj. завадзкі, пароดзісты: ***a stud horse*** завадзкі жарабец

**student** [ˈstu:dənt] n. 1. студэнт -а *m.*, студэнтка *f.* 2. вучань -ня *m.*, вучаніца *f.* 3. дасьледнік -а *m.*

• ***students,*** coll. студэнцтва *n.*, вучнёўская моладзь

**studied** [ˈstʌdɪd] adj. 1. вывучаны, завучаны. 2. старанна прадуманы, абдуманы: ***a studied essay*** прадуманая пісьмовая праца. 3. наўмысны: ***a studied insult*** наўмысная зьнявага

**studio** [ˈstu:dioʊ] n. 1. студыя *f.* (*мастакоўская*). 2. радыёстудыя, кінастудыя, тэлестудыя *f.* 3. аднапакаёвая кватэра

**studious** [ˈstu:diəs] adj. 1. які любіць вучыцца, старанны. 2. дбайны, руплівы; уважлівы. 3. прадуманы, разьлічаны, наўмысны: ***studied simplicity*** прадуманая прастата

**study** [ˈstʌdi] – n., pl. **studies** 1. вывучаньне *n.;* вучэньне *n.* 2. дасьледаваньне *n.* 3. прадмет вывучэньня, дасьледаваньня; галіна, кірунак навукі: ***Arithmetic, spelling, and geography are three school studies*** Арытмэтыка, правапіс і геаграфія — тры школьныя прадметы; ***to study the causes of a depression*** дасьледаваць прычыны дэпрэсіі. 4. працоўны кабінэт. 5. навуковая праца. 6. накід -у *m.* (*малюнку, апавяданьня*)

– v. 1. вывучаць; вучыцца: ***to study history*** вывучаць гісторыю; ***He studies most of the time*** Бальшыню часу ён вучыцца. 2. старанна, уважліва разглядаць, вывучаць: ***We studied the map to find the shortest road home*** Мы уважліва разглядзелі карту, каб знайсьці найкарацейшую дарогу дамоў. 3. абдумваць, абмяркоўваць. 4. вучыць, завучваць

• ***studies*** навучаньне, навука (*у школе, унівэрсытэце*)

**stuff** [stʌf] – n. 1. матэрыял -у *m.* 2. тканіна, матэрыя *f.* 3. рэчыва *n.*, рэч *f.* 4. рэчы *pl.*; нажыткі *pl.*: ***He was told to move his stuff out of the room*** Яму сказалі вынесьці свае рэчы з пакою. 5. хлам -у *m.*; гломазд -у *m.*; дрэнь *f.* 6. глупства *n.*, лухта *f.*

– v.t. 1. пакаваць, напаўняць. 2. набіваць, напіхваць (*чучала*). 3. начыняць, фаршыраваць. 4. упіхваць. 5. закладаць, забіваць: ***My nose is stuffed*** Мне залажыла нос. 6. наядацца, напіхвацца

• ***stuff a ballot box*** кідаць у выбарчую урну падробленыя бюлетэні

• ***stuffed shirt*** чапурысты, напышлівы

**stuffing** [ˈstʌfɪŋ] n. фарш -у *m.*, начынка *f.*

**stuffiness** [ˈstʌfinəs] n. духата, задуха *f.*

**stuffy** [ˈstʌfi] adj. 1. душны: ***a stuffy room*** душны пакой. 2. нудны: ***a stuffy speech*** нудная прамова

**stumble** [ˈstʌmbəl] – v.i. 1. спатыкацца. 2. ісьці хісткай, няпэўнай хадою: ***The tired old man stumbled along*** Зморaны стары ішоў спатыкаючыся. 3. гаварыць запінаючыся. 4. чуцца зьняважаным; вагацца, хістацца

– n. 1. промах -у *m.*, прохібка *f.*; няправільны крок *або* рух. 2. запінка, затрымка *f.*

• ***stumble upon*** прыпадкам натыкнуцца

**stumbling block** перашкода *f.*, камень спатыкненьня

**stump** [stʌmp] – n. 1. пень пня *m.* 2. абрубак -ка *m.* (*нагі*), кукса *f.* 3. каржакаваты чалавек. 4. імправізаваная трыбуна *f.* (*для палітычных прамоўцаў*). 5. цяжкі крок, цяжкая хада. 6. драўляная нага

– v.1. карчаваць пні. 2. чыкільгаць. 3. аб'яжджаць з агітацыяй

**stun** [stʌn] – v.t. **(-nn-)** 1. глушыць, аглушаць (*ударам*). 2. ашаламляць

– n. ашаломленасьць, агаломшанасьць *f.*

**stunned** [ˈstʌnd] adj. ашаломлены, ачмурэлы

**stung** [stʌŋ] v., *p.t. and p.p. of* **sting**

**stunk** [stʌŋk] v., *p.t. and p.p. of* **stink**

**stunt I** [stʌnt] – v.t. прыпыняць рост, разьвіцьцё
– n. спыненьне росту, разьвіцьця
**stunt II** [stʌnt] n., Informal штука *f.*, трук, фокус -у *m.*
**stunt man** каскадзёр -а *m.*
**stunted** [ˈstʌntɪd] adj. чэзлы (*пра расьліну, жывёліну*)
**stupefy** [ˈstu:pɪfaɪ] v.t. **-fied, -fying** 1. чмуціць, ачмураць, адураць, адурманьваць; атупляць (*і розум, пачуцьці*). 2. зьдзіўляць; ашаламляць, агаломшваць: ***They were stupefied by the calamity*** Яны былі ашаломленыя няшчасьцем
**stupendous** [stuˈpendəs] adj. захапляльны, дзівосны, цудоўны; велізарны
**stupid** [ˈstu:pəd] – adj. 1. дурны, бязглузды; тупы: ***a stupid person*** дурны чалавек. 2. нецікавы: ***a stupid book*** нецікавая кніга
– n. дурн|ы -ога *m.*, дурная *f.*; дур|ань -ня *m.*
**stupidity** [stuˈpɪdəti] n., pl. **-ties** 1. тупасьць, дурнота, бязглуздасьць *f.* 2. дурасьць *f.*, глупства *n.*
**stupor** [ˈstu:pər] n. 1. аслупяненьне, зьняменьне *n.* 2. Med. ступар -у *m.*
**sturdy** [ˈstɜ:rdi] adj. 1. моцны, здаровы; мажны, таўсты: ***sturdy legs*** моцныя ногі. 2. ***sturdy resistance*** моцны супраціў. 3. непахісны, мужны: ***sturdy defenders*** мужныя абаронцы
**sturgeon** [ˈstɜ:rdʒən] n., pl. **-geon**, coll. **-geons** ася|цёр -тра *m.* (*рыба*)
**stutter** [ˈstʌtər] – v.i. 1. заікацца. 2. запінацца, гаварыць запінаючыся
– n. заіканьне *n.*
**stutterer** [ˈstʌtərər] n. заіка *m. & f.*
**sty I** [staɪ] n. 1. сьвінарнік -а *m.* 2. Figur. сьвінушнік -а *m.* (*брудны пакой*)
**sty II** or **stye** [staɪ] n., pl. **sties** ячмень (*на воку*)
**style** [staɪl] – n. 1. мода *f.*, фасон -у *m.*: ***dresses in the latest style*** сукенкі найнавейшага фасону. 2. стыл|ь -ю *m.*: ***The Gothic style of architecture*** Гатычны стыль у архітэктуры. 3. стыл|ь -ю *m.*, манера *f.*: ***Kupala's style*** купалаўскі стыль. 4. густ -у *m.*: ***She dresses in style*** Яна адзяецца з густам. 5. стыло *n., indecl.*, пяро *n.* 6. Bot. шыйка песьціка
– v.t. 1. мадэляваць: ***dresses styled by a famous designer*** сукенкі змадэляваныя славутым куцюр'е. 2. тытулаваць
• ***New Style (Gregorian calendar)*** новы стыль (Грыгар'янскі каляндар)
• ***Old Style (Julian calendar)*** стары стыль (Юліянскі каляндар)
**stylish** [ˈstaɪlɪʃ] adj. са стылем; стыльны, стылёвы, модны, густоўны (*пра адзеньне*)
**stylist** [ˈstaɪlɪst] n. стыліст -а *m.*, стылістка *f.*
**stylistic** [staɪˈlɪstɪk] adj. стылістычны
**stylus** [ˈstaɪləs] n. 1. іголка для патэфона. 2. стыло *n., indecl.*
**styptic** [ˈstɪptɪk] – adj. кроваспыняльны
– n. кроваспыняльны сродак
**suave** [swɑ:v] adj. 1. ветлівы, пачцівы, далікатны; сьвецкі. 2. лагодны, мяккі (*пра віно*)
**sub-**, prefix 1. пад-: ***subway*** падземка; ***submarine*** падводная лодка. 2. суб-, блізу, каля: ***subalpine*** субальпійскі
**subacid** [ˌsʌbˈæsɪd] adj. кіславаты; зьедлівы
**subarctic** [ˌsʌbɑ:rktɪk] – adj. субарктычны, перадпалярны
– n. Субарктыка *f.*
**subcommittee** [ˈsʌbkəˌmɪti] n. падкамітэт -у *m.*
**subconscious** [sʌbˈkɑ:nʃəs] adj. падсьвядомы
**subdivide** [ˌsʌbdɪˈvaɪd] v.t. 1. разьдзяляць, дзяліць. 2. падзяляць (*зямлю на пляцы*)
**subdivision** [ˈsʌbdɪˌvɪʒən] n. 1. дзяленьне *n.* (*на часткі*). 2. падразьдзел -у *m.*, падразьдзяленьне *n.*
**subdue** [səbˈdu:] v.t. 1. падбіваць, заваёўваць; падпарадкоўваць, скараць: ***to subdue nature*** падпарадкаваць прыроду. 2. стрымваць, утаймоўваць: ***We***

***subdued a desire to laugh*** Мы стрымáлі сьмех; ***to subdue passion*** утаймóўваць жáрсьці. 3. зьмякчáць (*кóлер, сьвятлó*). 4. зьніжáць; зьмяншáць: ***to subdue a fever*** зьбíць гарáчку

**subdued** [səbˈdu:d] adj. 1. перамóжаны; падпарáдкаваны. 2. сьцíшаны, панíжаны (*тон*); зьмя́кчаны (*кóлер, сьвятлó*): ***subdued voices*** прыглýшаныя галасы́

**subeditor** [ˌsʌbˈedətər] n. памóчнік, намéсьнік рэдáктара

**subhead** [ˈsʌbhed] n. 1. падзагалóǀвак -ўка *m.* 2. падразьдзéл (*у кнíзе*). 3. застýпнік, намéсьнік -а *m.*

**subject** [ˈsʌbdʒekt] – n. 1. тэ́ма *f.* 2. прадмéт -у *m.* (*вывучэ́ньня*), аб'éкт -у *m.* (*дасьлéдаваньня*). 3 дысцыплíна *f.*, шкóльны прадмéт. 4. паддáнǀы -ага *m.*: ***Queen's subject*** паддáны каралéвы. 5. Gram. дзéйнік -а *m.* 6. тэ́ма *f.*, сюжэ́т -у *m.* (*твóру*)

– adj. 1. падулáдны, падпарáдкаваны: ***We are subject to our country's laws*** Мы падпарадкóўваемся закóнам нáшай краíны

– v.t. [səbˈdʒekt] 1. падбівáць, заваёўваць, падпарадкóўваць. 2. паддавáць: ***to subject to torture*** паддавáць катавáньню

• ***subject to*** а) пад улáдай, уплы́вам. б) схíльны да: ***subject to colds*** схíльны да застýды. в) залéжны ад *чагó*

**subjection** [səbˈdʒekʃən] n. 1. падпарáдкаваньне *n.* 2. падлéгласьць, падпарáдкаванасьць *f.*

**subjective** [səbˈdʒektɪv] adj. 1. суб'екты́ўны. 2. асабíсты, прывáтны (*дýмка, пагля́д*). 3. Gram. дзéйнікавы: ***subjective case*** назóўны склон

**subjectivity** [ˌsʌbdʒekˈtɪvəti] n. суб'екты́ўнасьць *f.*

**subjoin** [ˌsʌbˈdʒɔɪn] v.t. дадавáць; далучáць (*у канцы́*)

**subjugate** [ˈsʌbdʒəgeɪt] v.t. 1. падбівáць, заваёўваць. 2. скарáць, заняво́льваць

**subjugation** [ˌsʌbdʒəˈgeɪʃən] n. заваявáньне, паняво́леньне *n.*

**sublease** [ˈsʌbli:s] – n. субарэ́нда *f.*

– v.t [ˌsʌbˈli:s] субарандавáць

**sublet** [ˌsʌbˈlet] v.t. пераарандавáць

**sublimate** [ˈsʌblɪmeɪt] – v.i. Chem. 1. сублімавáць. 2. ачышчáць

– adj. сублімавáны

– n. сублімáт -у *m.*

**sublime** [səˈblaɪm] – adj. узьнёслы, прыўзьня́ты (*пра настрóй*); вéлічны

– n. узьнёсласьць *f.*

• ***from the sublime to the ridiculous*** з аднаé крáйнасьці ў другýю; ад весялóсьці да злóсьці

**submarine** [ˈsʌbməri:n] – adj. падвóдны: ***submarine plants*** падвóдныя расьлíны

– n. падвóдная лóдка

**submerge** [səbˈmɜ:rdʒ] v.t., v.i 1. затапля́ць: ***land submerged by a flood*** абшáр, затóплены павóдкай. 2. заглыбля́ць, пагружáць; апушчáцǀь (-ца), апускáцǀь (-ца) (*пад ваду́*)

**submergence** [səbˈmɜ:rdʒəns] n. *гл.* **submersion**

**submerse** [səbˈmɜ:rs] v., *гл.* **submerge**

**submersible** [səbˈmɜ:rsəbəl] adj. які́ мóжна акунáць, апускáць у ваду́

**submersion** [səbˈmɜ:rʒən] n. пагружэ́ньне, заглыблéньне *n.* (*у ваду́*)

**submission** [səbˈmɪʃən] n. 1. падлéгласьць, падпарáдкаванасьць *f.* 2. паслухмя́насьць, пакóрлівасьць *f.* 3. перадáча *f.*, прапанавáньне *n.* (*на разгля́д*)

**submissive** [səbˈmɪsɪv] adj. 1. падáтлівы; састýплівы. 2. паслухмя́ны; пакóрны

**submit** [səbˈmɪt] – v.i. **(-tt-)** здавáцца; скарáцца; саступáць: ***submit to one's fate*** скары́цца сваёй дóлі

– v.t. 1. унóсіць, падавáць: ***to submit a project for consideration*** унéсьці праéкт на разгля́д. 2. прызнавáць, згаджáцца: ***I submit that more proof is needed*** Я прызнаю́, што патрэ́бныя дадаткóвыя дóказы

**subordinate** [səˈbɔ:rdɪnət] – adj. 1. паднача́лены. 2. ніжэ́йшы рáнгам: ***A lieu-***

***tenant is subordinate to a captain*** Лейтэнáнт ніжэ́йшы рáнгам за капітáна. 3. другарáдны. 4. Gram. дадáны: ***subordinate clauses*** дадáныя скáзы
– n. падначáлен|ы -ага *m.*, падначáленая *f.*
– v.t. [səˈbɔːrdəmeɪt] падпарадкóўваць

**subordination** [səˌbɔːrdɪˈneɪʃən] n. 1. падпарáдкаваньне, падначáленьне *n.* 2. субардынáцыя *f.*

**suborn** [səˈbɔːrn] v.t. 1. падкуплáць сьвéдку. 2. схілáць (*да злачы́нства*)

**subpoena** [səˈpiːnə] – n., Law пóзва ў суд
– v.t. вы́клікаць пóзвай у суд

**subscribe** [səbˈskraɪb] v.t. 1. падпíсвацца (*на газэ́ту*): ***to subscribe to a magazine*** падпісáцца на чáсапіс. 2. падпíсвацца пад *чым*, падпíсваць *што*: ***to subscribe the petition*** падпісáць пэты́цыю. 3. Figur. падтры́мваць, згаджáцца: ***to subscribe to an idea*** падтрымáць дýмку

**subscriber** [səbˈskraɪbər] n. падпíшчык -а *m.*, падпíшчыца *f.*

**subscription** [səbˈskrɪpʃən] *n.* 1. падпíска *f.* 2. пóдпіс -у *m.* (*пад дакумэ́нтам*)

**subsequent** [ˈsʌbsɪkwənt] adj. настýпны, пазьнéйшы: ***subsequent events*** настýпныя падзéі
• ***subsequent to*** пасьля́; настýпны: ***on the day subsequent to your call*** на другí дзень пасьля́ твайгó званкý

**subserve** [səbˈsɜːrv] v.i. быць кары́сным, дапамагáць: ***Chewing food well subserves digestion*** Дóбрае пераҗóўваньне éжы дапамагáе страваваньню

**subservient** [səbˈsɜːrviənt] n. 1. пакóрлівы, падáтлівы. 2. прыслýжлівы, падхалíмскі. 3. кары́сны, прыдáтны

**subside** [səbˈsaɪd] v.i. 1. спадáць: ***flood waters subsided*** павóдка спáла; ***The fever subsided*** Гарáчка спáла. 2. зьмяншáцца, суцішáцца, сунімáцца: ***The storm finally subsided*** Навальнíца нарэ́шце суняла́ся

**subsidiary** [səbˈsɪdieri] – adj. 1. дапамóжны, дадаткóвы: ***a subsidiary occupation*** дадаткóвы заня́так. 2. падлéглы, другарáдны; адгалінавáны. 3. субсыдыявáны
– n. 1. дапамóжнік -а *m.* 2. філія́л -у *m.*

**subsidize** [ˈsʌbsɪdaɪz] v.t. субсыдыявáць, фінансавáць

**subsidy** [ˈsʌbsədi] n., pl. **-dies** грашóвая дапамóга, субсы́дыя *f.*

**subsist** [səbˈsɪst] v.i. 1. ледзь існавáць. 2. ліпéць

**subsoil** [ˈsʌbsɔɪl] n. падглéба *f.*

**substance** [ˈsʌbstəns] n. 1. матэ́рыя, субстáнцыя *f.*, рэ́чыва *n.*: ***Ice and water are the same substance in different forms*** Лёд і вадá — тóе сáмае рэ́чыва ў рóзных стáнах. 2. існасьць, сýтнасьць *f.* 3. сýтнасьць *f.*, сэнс -у *m.*: ***Give the substance of your speech*** Перадáй сýтнасьць сваé прамóвы. 4. гусьціня́, гушчыня́, кансыстэ́нцыя *f.* 5. багáцьце, маёнтак *n.*
• ***in substance*** а) па íснасьці, па сýтнасьці; галóўным парáдкам. б) факты́чна

**substandard** [səbˈstændərd] adj. субстандáртны, ніжэ́йшай я́касьці

**substantial** [səbˈstænʃəl] adj. 1. матэрыя́льны, рэáльны, рэ́чыўны. 2. салíдны, грунтóўны: ***substantial criticism*** здарóвы крытыцы́зм; ***substantial evidence*** вáжкае сьвéдчаньне. 3. вялíкі, істóтны, знáчны: ***a substantial improvement*** знáчнае ўдасканáленьне. 4. замóжны, багáты

**substantiality** [səbˌstænʃiˈæləti] n., pl. **-ties** 1. рэчаíснасьць *f.* 2. вáжкасьць, знáчнасьць *f.* 3. сапраўдная вáртасьць *f.*

**substantiate** [səbˈstænʃieɪt] v.t. давóдзіць, пацьвярджáць

**substation** [ˈsʌbˌsteɪʃən] n. падстáнцыя *f.*, аддзялéньне *n.*: ***Besides the main post office in our city, there are six substations*** Акрамя́ галóўнае пóшты ў нáшым гóрадзе ёсьць шэсьць паштóвых аддзялéньняў

**substitute** [ˈsʌbstɪtuːt] – n. 1. замéна, падмéна *f.* 2. намéсьнік, застýпнік -а *m.*, застýпніца *f.* 3. дублёр -а *m.* (*пра актóра*), падмéна *f.* (*у спóрце*)

– v.t. 1. падмяня́ць. 2. замяня́ць. 3. заступа́ць, замяня́ць (*на пра́цы*)
**substitute teacher** наста́ўнік на заме́ну; заме́на *m.& f.*
**substitution** [ˌsʌbstɪˈtuːʃən] n. 1. заме́на, падме́на *f.* 2. заступа́ньне *n.*
**substitutional** [ˌsʌbstɪˈtuːʃənəl] or **substitutive** [ˌsʌbstɪˈtuːtɪv] adj. заме́нны, які́ заступа́е
**subtenant** [ˌsʌbˈtenənt] n. субаранда́тар, субкватара́нт -а *m.*
**subterranean** [ˌsʌbtəˈreɪniən] adj. 1. падзе́мны: ***a subterranean passage*** падзе́мны прахо́д *або́* ход. 2. сакрэ́тны, падпо́льны
**subtitle** [ˈsʌbˌtaɪtəl] – n. 1. падзагало́|вак -ўку *m.* 2. субты́тры *pl.*
– v.t. 1. дава́ць падзагало́вак. 2. дава́ць субты́тры
**subtle** [ˈsʌtəl] adj. 1. даліка́тны; то́нкі, вы́танчаны: ***a subtle odour of perfume*** даліка́тны во́дар парфу́мы. 2. ледзь заўва́жны; тае́мны, зага́дкавы: ***a subtle smile*** ледзь заўва́жная ўсьме́шка. 3. хі́тры, спры́тны. 4. укра́длівы
**subtract** [səbˈtrækt] v. адыма́ць, аднімáць
**subtraction** [səbˈtrækʃən] n. адніма́ньне *n.*
**subtrahend** [ˈsʌbtrəhend] n. адні́мнік -а *m.*, адніма́нае *n.*
**subtropical** [sʌbˈtrɑːpɪkəl] adj. субтрапі́чны
**subtropics** [sʌbˈtrɑːpɪks] n. субтро́пікі *pl.*
**suburb** [ˈsʌbɜːrb] n. пры́гарад -у *m.*, прадме́сьце *n.*
• ***the suburbs*** пры́гарадныя раёны, прадме́сьці
**suburban** [səˈbɜːrbən] adj. пры́гарадны, прадме́сны
**subversion** [səbˈvɜːrʒən] n. 1. разбура́ньне, руйнава́ньне *n.* 2. падрыўна́я дзе́йнасьць
**subversive** [səbˈvɜːrsɪv] – adj. падрыўны́, разбура́льны: ***subversive activities*** падрыўна́я дзе́йнасьць
– n. падпо́льшчык -а *m.*
**subvert** [səbˈvɜːrt] v.t. 1. скіда́ць, зрына́ць (*ула́ду*). 2. разбура́ць, падрыва́ць
**subway** [ˈsʌbweɪ] n. 1. падзе́мка *f.*, мэтро́ *indecl.*, мэтрапалітэ́н -у *m.* 2. Brit. падзе́мны перахо́д, тунэ́л|ь -ю *m.*
**succeed** [səkˈsiːd] v.i. 1. удава́цца; сканча́цца по́сьпехам: ***His plans succeeded*** Яго́ныя пля́ны ўдалі́ся. 2. быць насту́пнікам: ***the generation that succeeds us*** бу́дучае пакале́ньне
**success** [səkˈses] n. уда́ча *f.*, по́сьпех -у *m.*: ***He has had little success in life*** Яму́ ў жыцьці́ не шанцава́ла
**successful** [səkˈsesfəl] adj. 1. пасьпяхо́вы, уда́лы. 2. уда́члівы
**succession** [səkˈseʃən] n. 1. пасьлядо́ўнасьць *f.*, шэ́раг -у *m.*. 2. перае́мнасьць *f.*
• ***in succession*** адзі́н за адны́м, за́пар
**successive** [səkˈsesɪv] adj. пасьлядо́ўны, чаргóвы: ***It rained for three successive days*** Дождж ішо́ў тры дні за́пар
**successor** [səkˈsesər] n. насту́пнік -а *m.*, насту́пніца *f.*
**succinct** [səkˈsɪŋkt] adj. сьці́слы, вы́казаны ко́ратка і я́сна
**succinctness** [səkˈsɪŋktnəs] n. сьці́сласьць *f.*
**succor**, Brit. **succour** [ˈsʌkər] – n. 1. дапамо́га *f.*
– v.t. дапамага́ць; падтры́мваць
**succory** [ˈsʌkəri] n. цыко́рыя *f.*
**succulence** [ˈsʌkjələns] n. сакаві́тасьць *f.*
**succulent** [ˈsʌkjələnt] adj. 1. сакаўны́, сакаві́ты. 2. Figur. сакаві́ты (*пра стыль*), не сухі́. 3. мясі́сты
**such** [sʌtʃ] – adj. 1. гэ́ткі; такі́: ***I have never seen such a sight*** Я ніко́лі ня ба́чыў гэ́ткага відо́вішча. 2. такі́: ***He is such a liar*** Ён такі́ маню́ка
– pron. 1. гэ́ткі (такі́, які́): ***Take from the blankets such as you need*** Вы́беры сабе́ з пле́даў такі́, які́ табе́ патрэ́бны
• ***as such*** а) як такі́. б) сам сабо́ю
• ***such and such*** такі́ і такі́: ***The accident occurred in such and such place*** Выпа́дак зда́рыўся ў такі́м і такі́м ме́сцы

• ***such as*** а) такі, як. б) як прыкладам: ***members of the dog family, such as the wolf, fox, and jackal*** такія прадстаўнікі сямейства сабачых, як прыкладам: воўк, ліс, і шакал

**suchlike** [ˈsʌtʃlaɪk] adj. такі, падобны: ***volcano eruptions and earthquakes and suchlike forces of nature*** вывяржэньні вулканаў, землятрусы і падобныя зьявы прыроды

**suck** [sʌk] – v.i. 1. смактаць, ссаць. 2. усмоктваць. 3. уцягваць, засмоктваць (*пра вадзяны вір*)
– n. смактаньне, ссаньне; усмоктваньне *n.*

**sucker** [ˈsʌkər] n. 1. сысун -á *m.* 2. поршань -ня *m.* (*помпы*). 3. Sl. наіўны прасьцяк. 4. лядзяш на палачцы

**suckle** [ˈsʌkəl] v.t. 1. карміць грудзьмі. 2. ссаць матчыны грудзі. 3. жывіць; узгадоўваць

**suckling** [ˈsʌklɪŋ] n. сысун -á *m.* (*пра маладую жывёліну*); смактун -á *m.* (*пра немаўля*)

**suction** [ˈsʌkʃən] n. ссаньне, усмоктваньне *n.*

**sudden** [ˈsʌdən] adj. нечаканы; раптоўны
• ***all of a sudden*** раптоўна

**suddenly** [ˈsʌdənli] adv. раптам, раптоўна; неўспадзеўкі, зьнячэўку, зьнянацку

**suds** [sʌdz] n., pl. 1. пена *f.* 2. Sl. піва *n.*

**sue** [su:] v.t. **sued, suing** 1. падаваць у суд на *каго*, пачынаць судовую справу супраць *каго*. 2. прасіць: ***Messengers came suing for peace*** Пасланцы прыйшлі прасіць міру

**suède** or **suede** [sweɪd] – n. 1. замша *f.*, замш -у *m.* 2. імітацыя замшу (*тканіна*)
– adj. замшавы

**suet** [ˈsu:ɪt] n. лой -ю *m.*

**suety** [ˈsu:ɪti] adj. з лою, лоевы

**suffer** [ˈsʌfər] v.i. 1. пакутаваць, мучыцца. 2. цярпець, пакутліва перажываць. 3. зазнаваць няўдачу, страты: ***His business suffered greatly during the war*** Ягонае прадпрыемства шмат пацярпела ў часе вайны. 4. цярпець; трываць: ***I will not suffer such insults*** Я не сьцярплю такіх абразаў

**sufferer** [ˈsʌfərər] n. пакутнік -а *m.*, пакутніца *f.*

**suffering** [ˈsʌfərɪŋ] n. 1. пакута *f.*, пакуты *pl.*; боль -ю *m.* 2. цярпеньне *n.*

**suffice** [səˈfaɪs] v.i. 1. ставаць, быць дастатковым; хапаць: ***The money will suffice for one year*** Грошай хопіць на адзін год. 2. задавольваць: ***A small amount sufficed him*** Малой колькасьці яму хапіла
• ***suffice to say*** дастаткова сказаць

**sufficiency** [səˈfɪʃənsi] n., pl. **-cies** дастатковасьць *f.*: ***sufficiency of provisions*** дастатковая колькасьць прадуктаў харчаваньня. 2. адпаведнасьць, задаволенасьць *f.*

**sufficient** [səˈfɪʃənt] adj. дастатковы; задавальняльны

**sufficiently** [səˈfɪʃəntli] adv. досыць, даволі, дастаткова

**suffix** [ˈsʌfɪks] n. суфікс -а *m.*

**suffocate** [ˈsʌfəkeɪt] – v. душыць
– v.i. душыцца; задыхацца

**suffocation** [ˌsʌfəˈkeɪʃən] n. задушэньне, удушша *n.*

**suffrage** [ˈsʌfrɪdʒ] n. 1. права голасу. 2. галасаваньне *n.*

**suffragette** [ˌsʌfrəˈdʒet] n. суфражыстка *f.* (*удзельніца руху за выбарчыя правы жанчын*)

**suffuse** [səˈfju:z] v.t. разьліваць, заліваць (*пра вадкасьці, колер*); пакрываць (*пра румянец*)

**sugar** [ˈʃʊgər] – n. 1. цукар -ру *m.* 2. Chem. цукры *pl.*
– v.t. 1. пасыпаць цукрам. 2. цукравацца, зацукроўвацца

**sugar beet** цукровы бурак

**sugar bowl** цукарніца

**sugar cane** цукровы трысьнёг

**sugar-coat** [ˈʃʊgərˌkoʊt] v.t. 1. пакрываць цукрам. 2. Figur. прыхарошваць

**sugar cube** цукар-рафінад

**sugar daddy**, Sl. старэйшы мужчына, шчодры на падарункі маладой жанчыне

**sugar mill** цукраварня *f.*
**sugarplum** [ˈʃʊgərplʌm] n. ляндрынка *f.*, лядзяш ледзяша *m.*
**sugar tongs** шчыпцы для цукру
**sugarworks** [ˈʃʊgərwɜːrks] n. цукраварня *f.*, цукровы завод
**sugary** [ˈʃʊgəri] adj. 1. цукровы; салодкі. 2. Figur. саладжавы, ліслівы
**suggest** [səgˈdʒest] v.t. 1. падказваць. 2. прапаноўваць; раіць. 3. намякаць, рабіць намінку
**suggestion** [səgˈdʒestʃən] n. 1. прапанова, думка *f.*: ***to make a suggestion*** падаць думку, прапаноўваць. 2. намёк -у *m.* 3. падказка *f.*
**suggestive** [səgˈdʒestɪv] adj. тое, што навóдзіць на думку
**suicidal** [ˌsuːɪˈsaɪdəl] adj. 1. самагубны. 2. згубны, пагібельны
**suicide** [ˈsuːɪsaɪd] n. 1. самагубства *n.* 2. самагубца *m. & f.*
• ***commit suicide*** скончыць самагубствам
**suit** [suːt] – n. 1. гарнітур, касьцюм -а *m.* 2. Law судовая справа. 3. масьць *f.* (*у картах*). 4. заляцаньне, сватаньне *n.*
– v.t. 1. дастасоўваць, дапасоўваць: ***well-suited colors*** добра дапасаваныя колеры. 2. спрыяць, адпавядаць. 3. спраўляць вопратку. 4. быць адпаведным, падыходзіць: ***Which day suits you best?*** Які дзень найлепш табе падыходзіць? 5. падыходзіць, пасаваць: ***Her hat suits her*** Капялюш ёй пасуе. 6. дагаджаць: ***It is hard to suit everyone*** Цяжка ўсім дагадзіць
• ***follow suit*** ісьці сьледам, ісьці за прыкладам
• ***suit oneself*** рабіць па-свойму
• ***suit yourself*** рабі, як хочаш
**suitable** [ˈsuːtəbəl] adj. 1. адпаведны. 2. здатны, прыдатны, прыгодны
**suitcase** [ˈsuːtkeɪs] n. чамадан -а *m.*, валізка *f.*, куфэрак -ка *m.*
**suit coat** or **suitcoat** [ˈsuːtkoʊt] n. пінжак -á *m.* (*мужчынскі*), жакетка *f.* (*жаночая*)
**suite** [swiːt] n. 1. апартамэнты *pl.*; нумар люкс (*у гатэлі*). 2. камплект мэблі. 3. Mus. сюіта *f.* 4. сьвіта *f.*, картэж -у *m.*
**suiting** [ˈsuːtɪŋ] n. тканіна на гарнітуры
**suitor** [ˈsuːtər] n. 1. кавалер, залётнік -а *m.* 2. Law пазоўнік -а, ісьцец істца *m.* 3. просьбіт -а *m.*
**Sukkoth** [ˈsʊkəs] n. кучкі *pl.*, сукот (*юдэйскае сьвята*)
**sulfate** or **sulphate** [ˈsʌlfeɪt] n. сульфат -у *m.*
**sulfid(e)** or **sulphid(e)** [ˈsʌlfaɪd] n. сульфід -у *m.*
**sulfur** or **sulphur** [ˈsʌlfər] n. 1. сера *f.* 2. серка *f.*
**sulfuric** or **sulphuric** [sʌlˈfjʊrɪk] adj. серны: ***sulfuric acid*** серная кіслата
**sulk** [sʌlk] v.i. надзімацца; насупліваццa; крыўдзіцца; крывіцца
**sulky** [ˈsʌlki] adj. надзьмуты; незадаволены; сярдзіты, змрочны
**sullen** [ˈsʌlən] adj. 1. надзьмуты, насуплены, у дрэнным настроі, сярдзіты. 2. Figur. змрочны, пануры, цёмны: ***The sullen skies threatened rain*** Змрочнае неба пагражала дажджом
**sullied** [ˈsʌlid] adj. запэцканы, забруджаны; паплямлены
**sully** [ˈsʌli] v.t. **-llied, -llying** пэцкаць, брудзіць; пляміць
**sultan** [ˈsʌltən] n. султан -а *m.*
**sultry** [ˈsʌltri] adj. 1. гарачы, парны, душны: ***sultry weather*** душнае надвор'е. 2. сапрэлы (*ад гарачыні*) 3. Figur. пажадлівы: ***a sultry look*** пажадлівы пóзірк
• ***sultry sun*** распаленае сонца
**sum** [sʌm] – n. сума, колькасьць: ***He paid a large sum for the house*** Ён заплаціў вялікую суму за дом
– v.t. **(-mm-)** 1. складаць, знаходзіць суму, падсумоўваць. 2. зьбіраць: ***to sum up strength*** сабраць сілы
• ***in sum*** адным словам, коратка кажучы
• ***sum total*** агульная сума
**summarize** [ˈsʌməraɪz] v.t. **-rized, -rizing** падсумоўваць, рэзюмаваць, падводзіць вынікі

**summary** [ˈsʌməri] – n., pl. **-ries** падсумава́ньне; рэзюмэ́ *n.* : ***The history book had a summary at the end of each chapter*** У падру́чніку гісто́рыі ў канцы́ ко́жнага разьдзе́лу было́ зьме́шчанае рэзюмэ́
– adj. 1. сьці́слы, каро́ткі: ***summary account*** каро́ткая справазда́ча. 2. безадкла́дны: ***summary dismissal*** звальне́ньне на ме́сцы

**summer** [ˈsʌmər] – n. ле́та *n.*
– adj. ле́тні
• ***in summer*** уле́тку.
• ***summer clothes*** ле́тняя во́пратка

**summer cottage, house** ле́тні дом, да́ча *f.*, ле́цішча *n.*

**summerhouse** [ˈsʌmərhaʊs] n. альта́нка *f.*

**summer resort** ле́тні куро́рт

**summertime** [ˈsʌmərtaɪm] n. ле́тняя пара́, ле́та *n.*
• ***in the summertime of life*** у ро́сквіце сі́лаў

**summit** [ˈsʌmɪt] n. 1. верх -у *m.*, верхаві́на, вярша́ліна *f.* 2. зэні́т -у *m.*: ***the summit of a career*** зэ́ніт кар'е́ры. 3. са́міт -у *m.*, канфэрэ́нцыя, нара́да ў вярха́х

**summon** [ˈsʌmən] v.t. 1. выкліка́ць: ***He was summoned to the court*** Яго́ вы́клікалі ў суд. 2. склі́каць: ***to summon an assembly*** склі́каць зьезд. 3. заклі́каць: ***to summon men to defend their country*** заклі́каць людзе́й бараніць сваю́ краі́ну
• ***summon one's courage*** набра́цца адва́гі

**summons** [ˈsʌmənz] n., pl. 1. по́зва *f.* 2. по́зва ў суд: ***He received a summons for fast driving*** Ён атрыма́ў судо́вую по́зву за ху́ткую язду́

**sumptuous** [ˈsʌmptʃuəs] adj. пы́шны, раско́шны: ***a sumptuous banquet*** пы́шны банке́т

**sun** [sʌn] – n. 1. со́нца *n.* 2. со́нечнае сьвятло́ й цяпло́: ***to sit in the sun*** сядзе́ць на со́нцы
– v.t. **(-nn-)** выстаўля́ць на со́нца; грэць, сушы́ць на со́нцы
• ***from sun to sun*** ад усхо́ду да захо́ду со́нца
• ***under the sun*** на зямлі́, на сьве́це

**sun-baked** [ˈsʌnbeɪkt] adj. 1. су́шаны на со́нцы: ***sun-baked pottery*** су́шаныя на со́нцы ганча́рныя вы́рабы. 2. сьцьвярдзе́лы, перасо́хлы на со́нцы: ***the sun-baked earth*** вы́паленая со́нцам зямля́

**sun bath** со́нечныя ва́нны

**sunbathe** [ˈsʌnbeɪð] v.i. загара́ць, грэ́цца на со́нцы

**sunbeam** [ˈsʌnbi:m] n. со́нечны прамень

**sunburn** [ˈsʌnbɜ:rn] – n. со́нечны апа́л, зага́р скуры
– v.t. спалі́ць ску́ру на со́нцы
– v.i. спалі́цца на со́нцы

**sunburnt** [ˈsʌnbɜ:rnt] v., *p.t. and p.p. of* **sunburn** загарэ́лы, апа́лены со́нцам

**sunburst** [ˈsʌnbɜ:rst] n. про́бліскі со́нца

**sundae** [ˈsʌndeɪ] n. маро́зіва з сыро́пам, садавіно́й, арэ́хамі

**Sunday** [ˈsʌndeɪ] n. нядзе́ля *f.*

**Sunday school** нядзе́льная шко́ла (*найчасьце́й для навуча́ньня рэлі́гіі*)

**sundial** [ˈsʌndaɪəl] n. со́нечны гадзі́ньнік

**sundown** [ˈsʌndaʊn] n. за́хад со́нца

**sundried** [ˈsʌndraɪd] adj. вы́сушаны на со́нцы

**sundry** [ˈsʌndri] adj. разная́кі, разнаста́йны: ***sundry trinkets*** ро́зная дро́бязь

**sunfast** [ˈsʌnfæst] adj. які́ не ліня́е на со́нцы

**sunflower** [ˈsʌnˌflaʊr] n. слане́чнік -а *m.*: ***sunflower seeds*** се́мечкі

**sung** [sʌŋ] v., *p.t., p.p. of* **sing**

**sunglasses** [ˈsʌnˌglæsəz] n., pl. со́нечныя акуля́ры

**sunk** [sʌŋk] v., *p.t., p.p. of* **sink**

**sunken** [sʌŋkən] adj. 1. зато́плены: ***a sunken ship*** зато́плены карабе́ль. 2. запа́лы: ***sunken cheeks*** запа́лыя шчо́кі

**sunlight** [ˈsʌnlaɪt] n. со́нечнае сьвятло́

**sunlit** [ˈsʌnlɪt] adj. асьве́тлены со́нцам

**sunny** [ˈsʌni] adj. 1. со́нечны. 2. сьве́тлы; ра́дасны; шчасьлі́вы: ***a sunny smile*** шчасьлі́вая ўсьме́шка

**sun porch** вэра́нда *f.*
**sunproof** [ˈsʌnpru:f] adj. со́нцанепраніка́льны, які́ не выгара́е на со́нцы: ***These sunproof curtains will not fade*** Гэ́тыя со́нцанепраніка́льныя фіра́нкі ня вы́гараць
**sunray** [ˈsʌnreɪ] n. со́нечны праме́нь
**sunrise** [ˈsʌnraɪz] n. 1. усхо́д со́нца. 2. зо́л|ак -ку *m.*, сьвіта́ньне *n.*, сьвіта́н|ак, до́сьвіт|ак -ку *m.*: ***at sunrise*** на до́сьвітку
**sunset** [ˈsʌnset] n. 1. за́хад со́нца. 2. змрок -у *m.*, зьмярка́ньне *n.*, пры́цемкі *pl.*
**sunshade** [ˈsʌnʃeɪd] n. 1. засло́на ад со́нца; парасо́н -а *m.*; маркі́за *f.* (*над вакно́м, дзьвяры́ма*)
**sunshine** [ˈsʌnʃaɪn] n. 1. со́нечнае сьвятло́ *або́* праме́ньне, со́нечнасьць *f.* 2. со́нца *n.*, паго́да *f.*, со́нечнае надво́р'е. 3. шча́сьце *n.*
**sunspot** [ˈsʌnspɑ:t] n. пля́ма на со́нцы
**sunstroke** [ˈsʌnstroʊk] n. со́нечны ўда́р
**suntan** [ˈsʌntæn] n. 1. со́нечны зага́р. 2. сьве́тлы жаўта́ва-руды́ ко́лер
-- adj. сьве́тлы жаўта́ва-руды́
**suntanned** [ˈsʌntænd] adj. загарэ́лы на со́нцы
**sunward(s)** [ˈsʌnwərdz] adv. у бок со́нца
**sup I** [sʌp] v., **(-pp-)** вячэ́раць; дава́ць вячэ́ру, частава́ць вячэ́рай
**sup II** [sʌp] – v., **(-pp-)** сёрбаць; піць малы́мі глыткамі́
– n. малы́ глыто́к, каўт|о́к -ка́ *m.*
**super** [ˈsu:pər] – n. Informal статы́ст -а *m.*, статы́стка *f.* (*у тэа́тры*)
– adj., Figur. дасканáлы; надзвычáйны, цудóўны
**superabundance** [ˌsu:pərəˈbʌndəns] n. празьме́рнасьць *f.*, збы́т|ак -ку *m.*: ***a superabundance of rain*** празьме́рнасьць дажджу́
**superb** [suˈpɜ:rb] adj. ве́лічны; пы́шны, раско́шны, цудо́ўны: ***a superb dinner*** бага́ты абе́д
**superconductivity** [ˌsu:pərˌkɑ:ndʌkˈtɪvəti] n., Phys. звышправо́днасьць *f.*
**superficial** [ˌsu:pərˈfɪʃəl] adj. 1. пае́рхневы, во́нкавы: ***His burns were superficial and soon healed*** Апёкі ў яго́ былі́ паве́рхневыя і ху́тка загаі́ліся. 2. павярхо́ўны: ***a superficial education*** павярхо́ўная адука́цыя
**superficially** [ˌsu:pərˈfɪʃəli] adv. павярхо́ўна; паве́рхнева
**superfine** [ˈsu:pərfaɪn] adj. 1. ве́льмі то́нкі, даліка́тны. 2. найвышэ́йшай я́касьці
**superfluity** [ˌsu:pərˈflu:əti] n., pl. **-ties** 1. лі́ш|ак, збы́т|ак -ку *m.* 2. празьме́рнасьць *f.*: ***Luxuries are superfluities*** Прадме́ты раско́шы — гэ́та збы́так
**superfluous** [su:ˈpɜ:rfluəs] adj. 1. лі́шні: ***In telegrams omit superfluous words*** У тэлегра́мах ня ўжыва́йце лі́шніх слоў. 2. непатрэ́бны
**superfluously** [su:ˈpɜ:rfluəsli] adv. лі́шне, празьме́рна
**superhuman** [ˌsu:pərˈhju:mən] adj. надчалаве́чы, звышчалаве́чы: ***a superhuman effort*** надчалаве́чае нама́ганьне
**superintend** [ˌsu:pərinˈtend] v.t. нагляда́ць (*за рабо́тай*), зага́дваць, кірава́ць
**superintendent** [ˌsu:pərinˈtendənt] n. нагля́дчык, дагля́дчык, зага́дчык -а *m.*
**superior** [su:ˈpɪriər] – adj. 1. вышэ́йшы, выда́тны. 2. ле́пшага гату́нку, першара́дны: ***a superior blend of coffee*** першара́дны гату́нак ка́вы. 3. вышэ́йшы стано́вішчам, ра́нгам, ва́жнасьцю: ***a superior officer*** ста́ршы афіцэ́р. 4. ганары́сты, пага́рдлівы: ***superior manners*** ганары́стыя паво́дзіны
– n. 1. ста́рш|ы -ага *m.*, нача́льнік -а *m.* 2. настая́цел|ь -я *m.*, настая́цельніца *f.*: ***Father Superior*** ігу́мен -а *m.*; ***Mother Superior*** ігу́меньня *f.*
• ***superior to*** а) вышэ́йшы за, які́ пераўвыша́е. б) ле́пшы, дасканáлейшы за: ***A wise man is superior to flattery*** Разу́мнага чалаве́ка лі́сьлівасьцю ня во́зьмеш
**superiority** [su:ˌpɪriˈɔ:rəti] n. вышэ́йшасьць *f.*

**superlative** [su:ˈpɜ:rlətɪv] – adj. 1. найбо́льшы, ве́льмі вялі́кі, веліза́рны; найвышэ́йшы. 2. пераб́ольшаны; празьме́рны: ***Such superlative praise could not be sincere*** Тако́е празьме́рнае расхва́льваньне не магло́ быць шчы́рым
– n. 1. верх -у *m.* (*дасканаласьці, адва́гі*). 2. Gram. найвышэ́йшая ступе́нь
• ***talk in superlatives*** пераб́ольшваць

**superman** [ˈsu:pərmæn] n., pl. **-men** супэрмэ́н, звышчалаве́к -а *m.*

**supermarket** [ˈsu:pərˌmɑ:rkət] n. супэрма́ркет -у *m.*

**supernational** [ˈsu:pərˌnæʃənəl] adj. *гл.* **supranational**

**supernatural** [ˈsu:pərˌnætʃərəl] adj. звышнатура́льны, надпрыро́дны
• ***the supernatural*** звышнатура́льныя зья́вы

**supernumerary** [ˌsu:pərˈnu:məreri] – adj. дадатко́вы, звышшта́тны.
– n. 1. звышшта́тны працаўні́к. 2. статы́ст -а *m.*, статы́стка *f.* (*у тэа́тры*)

**superpose** [ˈsu:pərˌpouz] v.t. наклада́ць (*адну́ рэч на другу́ю*)

**superpower** [ˈsu:pərˌpaʊər] n. 1. звышдзяржа́ва *f.* 2. звышсі́ла *f.*

**supersaturate** [ˌsu:pərˈsætʃəreɪt] v.t. перанасыча́ць (*раство́р*)

**supersaturation** [ˌsu:pərˌsætʃəˈreɪʃən] n. 1. перанасычэ́ньне *n.* 2. перанасы́чанасьць *f.*

**superscript** [ˈsu:pərskrɪpt] – adj. надрадко́вы
– n. надрадко́вы знак (*лік, лі́тара*)

**supersonic** [ˌsu:pərˈsɑ:nɪk] – adj. звышгукавы́

**superstition** [ˌsu:pərˈstɪʃən] n. забабо́н -у *m.*

**superstitious** [ˌsu:pərˈstɪʃəs] adj. забабо́нны

**supervise** [ˈsu:pərvaɪz] v.t. 1. нагляда́ць, кірава́ць: ***He supervised the group's activities*** Ён кірава́ў дзе́йнасьцю гру́пы. 2. зага́дваць

**supervision** [ˌsu:pərˈvɪʒən] n. кірава́ньне *n.*; нагля́д -у *m.*: ***The house was built under the careful supervision of an architect*** Дом будава́ўся пад ува́жным нагля́дам архітэ́ктара

**supervisor** [ˈsu:pərvaɪzər] n. нагля́дчык -а *m.*, нагля́дчыца *f.*; зага́дчык -а *m.*, зага́дчыца *f.*; кіраўні́к -а́ *m.*, кіраўні́ца *f.*

**supper** [ˈsʌpər] n. вячэ́ра *f.*: ***to have supper*** вячэ́раць

**supplant** [səˈplænt] v.t. выжыва́ць, выцясьня́ць; падмяня́ць

**supple** [ˈsʌpəl] – adj. 1. гну́ткі, мя́ккі: ***a supple birch tree*** гну́ткая бяро́за; ***a supple leather*** мякка́я ску́ра. 2. падаўкі́, пада́тлівы, згаво́рлівы (*пра чалаве́ка*). 3. лісьлі́вы
– v. рабі́ц|ь (-ца) гну́ткім

**supplement** [ˈsʌplɪmənt] – n. дапаўне́ньне *n.*, дада́т|ак -ку *m.*
– v.t. дапаўня́ць

**supplemental** [ˌsʌplɪˈmentəl] adj. дапаўня́льны

**supplementary** [ˌsʌplɪˈmentəri] adj. дадатко́вы: ***supplementary instruction*** дадатко́вае навуча́ньне, інструкта́ж -у *m.*

**suppliant** [ˈsʌpliənt] – adj. умо́льны, упраша́льны: ***a suppliant message for help*** умо́льная про́сьба аб дапамо́зе
– n. пако́рлівы про́сьбіт

**supplicant** [ˈsʌplɪkənt] n., adj. *гл.* **suppliant**

**supplicate** [ˈsʌplɪkeɪt] v.t. 1. умо́льваць, пако́рліва ўпро́шваць. 2. шчы́ра малі́цца

**supplication** [ˌsʌplɪˈkeɪʃən] n. 1. умо́льваньне, упро́шваньне *n.* 2. шчы́рая, пако́рлівая про́сьба *або́* малі́тва

**supply I** [səˈplaɪ] – v.t. **-pplied, -pplying** 1. дастаўля́ць; забясьпе́чваць. 2. пакрыва́ць, вярта́ць: ***to supply a deficiency*** вярта́ць за недахо́п, пакрыва́ць няста́чу. 3. задавальня́ць (*жада́ньне, патрэ́бы*). 4. замяня́ць, папаўня́ць. 5. часо́ва заступа́ць
– n., pl. **-pplies** 1. забесьпячэ́ньне, даста́ўка, пастаўка *f.* 2. запа́с -у *m.*: ***a supply of coffee*** запа́сы ка́вы. 3. пра-

панава́ньне *n.*: ***supply and demand*** прапано́ва і по́пыт. 4. часо́вы засту́пнік. 5. бюджэ́тныя асыгнава́ньні

• ***in short supply*** дэфіцы́тны

• ***in supply*** ная́ўны: ***Apples are in plentiful supply this year*** Яблыкаў сёлета ў по́ўным даста́тку

**supply II** [ˈsʌpəlli] adv. гну́тка, мя́кка

**support** [səˈpɔ:rt] – v.t. 1. падпіра́ць, трыма́ць: ***Walls support the roof*** Сьцёны трыма́юць страху́. 2. падтры́мваць: ***Hope supports us in trouble*** Надзе́я падтры́мвае нас у бядзе́. 3. утры́мваць: ***to support one's family*** утры́мваць сваю́ сям'ю́. 4. падтры́мваць, быць прыхі́льнікам: ***He supports the Liberals*** Ён падтры́мвае лібэра́лаў. 5. падмацо́ўваць: ***The facts support his statement*** Фа́кты падмацо́ўваюць яго́нае цьве́рджаньне

– n. 1. падтры́мка, дапамо́га, падпо́ра *f.*: ***He needs our support*** Яму́ патрэ́бная на́шая падтры́мка. 2. утрыма́ньне *n.* 3. падпо́рка *f.*

**supporter** [səˈpɔ:rtər] n. 1. прыхі́льнік -а *m.* 2. той, хто падтры́мвае *або́* ўтрымо́ўвае

**suppose** [səˈpouz] v.i. 1. дапушча́ць, дапуска́ць: ***Suppose you are late, what excuse will you make?*** Дапу́сьцім, вы спазьні́ліся, чым вы бу́дзеце апра́ўдвацца? 2. меркава́ць; ду́маць, уважа́ць: ***I suppose she will come as usual*** Мярку́ю, што яна́ пры́йдзе, як звыча́йна; ***He was supposed to come yesterday*** Ён ме́ўся прыйсьці́ ўчо́ра

**supposing** [səˈpouzɪŋ] conj. у вы́падку, што; калі́ б: ***Supposing it rains, shall we still go?*** Калі б ішо́ў дождж, ці мы ўсё адно́ по́йдзем?

**supposition** [ˌsʌpəˈzɪʃən] n. дапушчэ́ньне, меркава́ньне *n.*

**suppository** [səˈpɑ:zətɔ:ri] n., pl. **-ries,** Med. супазыто́рый -я *m.*, сьве́чка *f.*

**suppress** [səˈpres] v.t. 1. душы́ць (*паўста́ньне, бунт*). 2. стры́мваць (*зяха́ньне, плач*). 3. прытры́мваць, прыпыня́ць: ***to suppress a newspaper*** прыпыні́ць газэ́ту. 4. стры́мваць, спыня́ць: ***to suppress bleeding*** спыні́ць крывацёк. 5. зато́йваць: ***to suppress the truth*** затаі́ць пра́ўду

**suppression** [səˈpreʃən] n. 1. здушэ́ньне *n.* (*бу́нту*). 2. стрыма́ньне, абмежава́ньне: ***suppression of human rights*** абмежава́ньне право́ў чалаве́ка. 3. зато́йваньне

**suppurate** [ˈsʌpjəreɪt] – v.t. 1. нагно́йваць (*ра́ну*), вы́клікаць гнае́ньне, запале́ньне.

– v.i. гнаі́цца (*пра ра́ну*), выдзяля́ць гной

**suppuration** [ˌsʌpjəˈreɪʃən] n. 1. гнае́ньне, нарыва́ньне *n.* (*ра́ны*). 2. гно|й -ю *m.* (*з ра́ны*)

**suppurative** [ˈsʌpjərətɪv] – adj. нагно́ены, гно́йны, гнаявы́ (*пра ра́ну*)

– n. сро́дак, які́ прысьпяша́е нагно́йваньне

**supranational** [ˌsu:prəˈnæʃənəl] adj. наднацыяна́льны: ***supranational corporations*** наднацыяна́льныя карпара́цыі

**supremacy** [suˈpreməsi] n. 1. вяршэ́нства *n.*, супрэма́цыя *f.* 2. найвышэ́йшая ўла́да, перава́га (*сі́лы, ула́ды*)

**supreme** [suˈpri:m] adj. 1. найвышэ́йшы: ***a supreme ruler*** найвышэ́йшы валада́р; ***supreme power*** найвышэ́йшая ўла́да. 2. найбо́льшы, скра́йні: ***supreme courage*** надзвыча́йная адва́га. 3. крыты́чны, экстрэма́льны (*мо́мант*)

• ***the supreme sacrifice*** найвышэ́йшая ахвя́ра; ахвя́ра жыцьцём

**Supreme Court** Найвышэ́йшы Суд, Вярхо́ўны Суд

**surcharge** [ˈsɜ:rtʃɑ:rdʒ] – n. 1. дапла́та, прыпла́та *f.* 2. перагру́зка *f.* 3. дадатко́вы пада́так

– v.t. 1. спаганя́ць дадатко́вую пла́ту. 2. перааццэ́ньваць, выстаўля́ць завы́шаную цану́. 3. перагружа́ць

**sure** [ʃʊr] – adj. 1. пэ́ўны, упэ́ўнены; перакана́ны: ***We are sure to meet him*** Мы ўпэ́ўненыя, што спатка́емся з

– v.i. 1. грымéць, грукатáць. 2. мóцна гаварыць; крычэць, грымéць

**thunderbolt** [ˈθʌndərboʊlt] n. 1. малáнка з грóмам. 2. Figur. нéшта нечакáнае; гром зь яснага нéба. 3. Figur. дынамічны чалавéк

**thunderclap** [ˈθʌndərklæp] n. 1. трэск перунá. 2. нечакáнае здарэньне *або* вéстка

**thunderstorm** [ˈθʌndərstɔ:rm] n. навальніца *f.*

**thunderstruck** [ˈθʌndərstrʌk] adj. агалóмшаны; як грóмам удáраны

**Thursday** [ˈθɜ:rzdeɪ] n. чацьвІéр -ярга *m.*, чэцьвер -а *m.*

**thus** [ðʌs] adv. такім парáдкам; так, гэтак: ***He spoke thus*** Ён гэтак казáў

**thy** [ðaɪ] adj., Archaic твой

**thyme** [taɪm] n., Bot. чабІóр -арý *m.*

**ti** [ti:] n., Mus. сі (*нóта*)

**tiara** [tiˈærə] n. 1. дыядэма *f.* 2. тыяра *f.*

**tick I** [tɪk] – n. 1. цíканьне *n.* (*гадзíньніка*). 2. Informal мóмант -у *m.*, хвілінка *f.*: ***I'll be with you in a tick*** Я прыйдý за хвілíнку. 3. птýшка *f.* (*значóк*)

– v.i. цíкаць

– v.t. пазначáць птýшкай

• ***tick off*** а) адзначыць. б) загнéвацца, выбухнуць

**tick II** [tɪk] n., Zool. клешч кляшчá *m.*

**tick III** [tɪk] n. 1. нáсыпка *f.*, сяньнíк сеньнікá *m.* 2. Informal *гл.* **ticking**

**ticket** [ˈtɪkɪt] – n. 1. білéт -а *m.*, квітІóк -кá *m.* 2. ярлык -á *m.*, этыкéтка *f.* 3. сьпіс кандыдáтаў аднóй пáртыі (*на выбарах*). 4. штрáфны квітóк

– v.t. чапляць ярлык

**ticking** [ˈtɪkɪŋ] 1. палатнó на сеньнікí, матрáцы, нáсыпкі. 2. цíканьне *n.*

**tickle** [ˈtɪkəl] – v.t. 1. казытáць. 2. прыéмна ўзбуджáць, цéшыць, захапляць: ***The child was tickled with his new toys*** Дзіця былó ўсьцéшанае сваімі нóвымі цáцкамі. 3. адчувáць кóзыт: ***My nose tickles*** У мянé казыча ў нóсе

– n. 1. кóзыт -у *m.* 2. казытáньне *n.*

**ticklish** [ˈtɪkəlɪʃ] adj. 1. казытлівы. 2. Figur. далікáтны: ***a ticklish situation*** далікáтнае станóвішча. 3. крыўдлівы

**tidal** [ˈtaɪdəl] adj. зьвязáны з прылівам і адлівам, прылíўна-адлíўны

**tidbit** [ˈtɪdbɪt] n. 1. смáчны кавáлак, ласýнІак -ка *m.* 2. пікáнтная, цікáвая навíна

**tide** [taɪd] n. 1. прылíў і адлíў акіяну. 2. плынь *f.*; патóк -у *m.* 3. парá *f.*, час -у *m.*: ***Eastertide*** велікóдная пара

• ***go with tide*** ісьці з плыньню

• ***swim against the tide*** плысьці супрóць плыні

• ***tide over*** а) ператрывáць. б) перадóлець (*цяжкасьці*)

• ***turn the tide*** зьмяніць кірýнак на адварóтны

**tidiness** [ˈtaɪdɪnəs] n. ахáйнасьць, акурáтнасьць *f.*

**tidings** [ˈtaɪdɪŋz] n., pl. навíны, зьвéсткі *pl.*; інфармáцыя *f.*

**tidy** [ˈtaɪdi] – adj. 1. ахáйны, акурáтны. 2. Informal салíдны: ***a tidy sum of money*** салíдная сýма грóшай. 3. Informal дóсыць дóбры, неблагí

– v.t. парáдкаваць; прыбірáць: ***She tidied the room*** Янá прыбрáла пакóй

**tie** [taɪ] – v., **tied, tying** 1. зьвязваць, перавязваць, перавязаць; прывязваць: ***to tie a package*** зьвязáць пакýнак; ***to tie a dog to a tree*** прывязáць сабáку да дрэва. 2. завязваць: ***tie one's apron strings*** завязáць матузы фартухá; ***to tie one's shoes*** зашнуравáць чаравíкі. 3. Figur. быць зьвязаным, прывязаным: ***to be tied to one's job*** быць зьвязаным прáцай. 4. атрымáць нічыйны вынік: ***The two teams tied*** Камáнды згулялі ўнічыю

– n. 1. вýзІел -лá *m.* 2. шнурІóк -кá *m.*, вярóўка, прывязь *f.* 3. бант -а *m.* 4. гáльштук -а *m.* 5. сýвязь *f.*; пóвязі *pl. only* : ***family ties*** сямéйныя пóвязі. 6. шпáла *f.* (*на чыгýнцы*). 7. рóўная кóлькасьць галасóў; нічыя *f.*, рóзыгрыш -у *m.* (*у гульні*)

• ***tie down*** а) абмежавáць. б) прывязáць

• ***tie in*** а) злучáць, улучáць. б) увязваць

• ***tie up*** а) зьвязáць, завязáць. б) закруціць, загарнýць у *што*, в) перашкóдзіць. г) быць занятым: ***I can't come tomorrow; I'm all tied up*** Я не магý зáўтра прыйсьці; я вéльмі заняты

**tie-in** [ˈtaɪɪn] n. сýвязь, лýчнасьць *f.*

**tier** [tɪr] n. ярус -а *m.*

**tiger** [ˈtaɪgər] n. тыгар -ра *m.*

**tight** [taɪt] – adj. 1. тугí: ***a tight knot*** тугí вýзел. 2. шчыльны, шчыльны. 3. цéсны: ***tight clothing*** цéсная вóпратка. 4. непранікáльны. 5. сьцíслы (*пра стыль*). 6. стрóгі, сурóвы: ***to rule with a tight hand*** быць стрóгім і сурóвым уладарóм, кіраўнікóм. 7. Informal скупы

– adv. мóцна, цéсна

• ***sit tight*** Informal а) мóцна трымáцца, не здавáць сваіх пазыцыяў. б) не варушыцца. в) вычэкваць

• ***uptight*** Sl. у напрýжаньні, у хвалявáньні

**tighten** [ˈtaɪtən] – v.t. сьціскáць; падцягваць: ***to tighten one's belt*** тужэй падцягнýць папрýгу; ***to tighten discipline*** падцягнýць дысцыплíну

– v.i. тужэць, цясьнéць

**tightfisted** [ˌtaɪtˈfɪstɪd] adj. скупы, скнáрлівы, скнáрны

**tight rope** а) нацягнуты канáт. б) цяжкáя *абó* небясьпéчная сытуáцыя

**tights** [taɪts] n. трыкó *indecl., n.*, калгóткі *pl.*

**tight squeeze** а) цяжкóе *абó* безвыхóднае станóвішча. б). цéсны прахóд

**tile** [taɪl] – n. 1. дахóўка *f.* 2. плíтка, кáфля *f.*

– v.t. пакрывáць плíткамі; крыць дахóўкаю

– adj. кафляны: ***a tile floor*** кафляная падлóга

**till I** [tɪl] – prep. да, да тагó чáсу: ***The children played till eight*** Дзéці гулялі да вóсьмае гадзíны

– conj. пакýль; да тагó, як; перад тым, як: ***till now*** дасюль, дагэтуль; ***till then*** датýль, да таé пары

**till II** [tɪl] v.t. абрабляць: ***Farmer tills the land*** Гаспадáр абрабляе зямлю

**tilt** [tɪlt], – v.t. нахіляць, схіляць

– v.i. 1. пахіляцца, нахіляцца; касíцца. 2. біцца дзíдамі, змагáцца ў турніры

– n. 1. нахíл, схіл -у *m.*; спад -у *m.* 2. сутычка *f.*

• ***at full tilt*** пóўным хóдам; з усяé мóцы

• ***tilt at*** атакавáць

**timber** [ˈtɪmbər] n. 1. лесаматэрыял -у *m.* 2. будаўнíчы матэрыял: ***timber yard*** склад будаўнíчых матэрыялаў. 3. бервянó *n.*; калóда *f.*; бэлька *f.* 4. дрэвы *pl.*; лес на пні

**timbre** [ˈtæmbər] n. тэмбар -ру *m.* (*гóласу*)

**time** [taɪm] – n. 1. час -у *m.* 2. парá, эпóха *f.*: ***the time of "Nasha Niva"*** нашаніўская парá. 3. тэрмін -у *m.*, час слýжбы, зьнявóленьня. 4. гадзíна *f.*: ***What time is it?*** Катóрая гадзíна?; ***At what time?*** А катóрай гадзíне? 5. рытм -у *m.* (*у паэзіі*). 6. Mus. тэмп, такт -у *m.* 7. Sport тайм -у *m.*

– v.t. мéраць, вымярáць, засякáць час

• ***about time*** парá; насьпéў час

• ***at the same time*** а) у той сáмы час, аднача́сна. б) аднáк, тым ня менш

• ***at times*** час-часóм; чáсам, зрэдку

• ***behind the times*** старамóдны

• ***buy time*** зацягваць

• ***do*** or ***serve time,*** Informal адбывáць тэрмін

• ***for the time being*** пакýль штó, да пары да чáсу, тымчасóва

• ***from time to time*** час-часóм; зрэдку, чáсам

• ***have a good time*** дóбра, вéсела правóдзіць час: ***She had a good time at the party*** Янá вéсела бáвіла час на вечарынцы

• ***in due time*** у свой час, своечасóва

• ***in good time*** а) упарý. б) сваíм чáсам

• ***it is time*** парá: ***It is time to eat*** парá éсьці

• ***in no time*** вóбмігам, імгнéнна

• ***in time*** а) неўзабáве. б) дóсыць хýтка. в) у такт (*у мýзыцы, тáнцы*)

• ***keep time*** а) існці правільна (*пра гадзіньнік*). б) вытрымваць такт. в) засякаць час
• ***kill time*** марнаваць час
• ***on time*** упару; не запозна
• ***one (two) at a time*** па адным (па два)
• ***once upon a time*** калісьці, аднойчы
• ***Take your time*** Не сьпяшайся
• ***tell time*** пазнаваць час на гадзіньніку
• ***time after time*** or ***time and again*** раз за разам, раз-пораз, неаднаразова
• ***time of life*** век (*чалавека*); ***at my time of life*** на маім вяку
• ***time of one's life*** Informal незабыўны, шчасьлівы час
• ***times,*** pl. памножыць на: ***three times four*** тры памножыць на чатыры

**time bomb** а) бомба запаволенага дзеяньня. б) Figur. выбуховая сытуацыя

**time-consuming** [ˈtaɪmkənˌsu:mɪŋ] adj. часаёмкі

**timeless** [ˈtaɪmləs] adj. 1. бясконцы; вечны. 2. бестэрміновы

**timely** [ˈtaɪmli] – adv. у адпаведны час, якраз у час, своечасова
– adj. своечасовы

**timetable** [ˈtaɪmˌteɪbəl] n. 1. графік, расклад -у *m.* 2. расклад заняткаў

**timid** [ˈtɪmɪd] adj. 1. нясьмелы, баязьлівы: ***a timid reply*** нясьмелы адказ. 2. палахлівы; пужлівы

**timidity** [tɪˈmɪdəti] n. палахлівасьць, пужлівасьць *f.*; нясьмеласьць *f.*

**timidly** [ˈtɪmɪdli] adv. баязьліва; сарамліва; нясьмела

**tin** [tɪn] – n. 1. волава *n.* 2. белая бляха. 3. бляшанка *f.*: ***a tin of sardines*** бляшанка сардынак
– adj. алавяны
– v.t. лудзіць

**tinder** [ˈtɪndər] n. 1. губа, цэра *f.* 2. лёгка запальнае рэчыва

**tin foil** фольга *f.*, станіёл|ь -ю *m.*

**ting** [tɪŋ] – v.i. дзынкаць, дзінькаць
– n. дзынканьне, дзіньканьне *n.*

**tinge** [tɪndʒ] – v.t. 1. лёгка афарбоўваць, надаваць адценьне. 2. Figur. надаваць прысмак, пакідаць сьлед: ***Sad memories tinged their joy*** Сумныя ўспаміны прыглушвалі іхную радасьць
– n. лёгкая афарбоўка *f.*, адценьне *n.*

**tinker** [ˈtɪŋkər] – n. 1. меднік, лудзільшчык -а *m.* 2. Figur. партацтва *n.*; порканьне *n.* 3. партач -а *m.*
– v.t. 1. лудзіць. 2. Figur. партачыць; поркацца

**tinkle** [ˈtɪŋkəl] – v.i. званіць; зьвінець; дзынкаць; вызвоньваць: ***The little clock tinkled out the hours*** Малы гадзіньнік вызвоньваў час
– n. звон -у *m.*; дзынканьне *n.*: ***the tinkle of bells*** дзынканьне званочкаў

**tinned** [tɪnd] adj. 1. закансэрваваны ў бляшанцы: ***tinned goods*** кансэрвы *pl.* 2. палуджаны

**tinse** [tɪns] n. бліскоткі, бліскаўкі *pl.*

**tinsmith** [ˈtɪnsmɪθ] n. бляхар -а *m.*

**tint** [tɪnt] – n. 1. адценьне *n.*, тон -у *m.*, афарбоўка *f.* (*колеру*). 2. далікатны, сьветлы тон. 3. сродак для фарбаваньня валасоў
– v.t. падмалёўваць

**tinware** [ˈtɪnwer] n. бляшаныя вырабы

**tiny** [ˈtaɪni] adj. маленечкі, малюпаткі, малюсенькі: ***tiny bit*** крышачку

**tip I** [tɪp] – n. 1. кан|ец -ца, кончык -а *m.*: ***the tips of the fingers*** кончыкі пальцаў. 2. верхавіна *f.*, верх -у *m.*: ***the tip of the hill*** верхавіна ўзгорка. 3. наканцоўе *n.*, наканечнік -а *m.*
– v.t. **(-pp-)** насаджваць наканечнік

**tip II** [tɪp] – v.t. **(-pp-)** 1. нахіляць. 2. прыўзьнімаць капялюш пры вітаньні
– v.i. 1. нахіляцца, схіляцца. 2. перакульвацца
– n. нахіл, схіл -у *m.*
• ***tip over*** перакуліць; абярнуць, вывернуць

**tip III** [tɪp] – n. 1. чаявыя *pl. only.* 2. падказка *f.* 3. карысная парада
– v.t. даць на чай: ***He tipped the waiter*** Ён даў на чай афіцыянту
• ***tip off,*** Informal а) даць канфідэнцыйную інфармацыю. б) перасьцерагаць; папярэджваць

**tipoff** or **tip-off** [ˈtɪpɔ:f] n., Informal 1. канфідэнцыйная інфармáцыя. 2. папярэ́джаньне *n.* 3. перасьцярóга *f.*

**tipple** [ˈtɪpəl] – v.i. выпівáць, п'янстваваць
– n. алькагóльнае пітвó

**tipsy** [ˈtɪpsi] adj. 1. хісткі, няўстóйлівы. 2. падпіты

**tiptoe** [ˈtɪptoʊ] – n. 1. кóнчыкі пáльцаў ног: ***on tiptoe*** а) на дыбачках. б) на пачакáньні, вычэ́кваючы. в) крадкóм, крадучыся
– v.i. хадзіць на дыбачках, ставáць на дыбачкі

**tire I** [taɪr] – v.t. 1. стамляць; марыць, змóрваць: ***The hard work tired him*** Цяжкáя прáца стамляла ягó. 2. дакучáць, надакýчваць: ***The monotonous work tired the office boy*** Пасыльнóму надакýчыла аднастáйная прáца
– v.i. марыцца, змóрвацца; стамляцца: ***He tires easily*** Ён лёгка стамляецца
***• tire out*** мóцна змарыць, зьнясіліць, змýчыць, выматаць

**tire II** [taɪr] n. шына *f.*

**tired** [taɪrd] adj. змóраны, стóмлены; зьнямóжаны

**tiredly** [ˈtaɪrdli] adv. змóрана, стóмлена; зьнямóжана

**tiredness** [ˈtaɪrdnəs] n. стóма, змóраасьць *f.*

**tireless** [ˈtaɪrləs] adj. 1. нястóмны, няўтóмны. 2. безупынны: ***tireless efforts*** безупынныя намагáньні

**tiresome** [ˈtaɪrsəm] adj. нýдны, надакýчлівы

**tissue** [ˈtɪʃu:] n. 1. ткáнка *f.*: ***fatty tissues*** тлýшчавыя ткáнкі. 2. тóнкая, лёгкая тканіна. 3. папярóвая хýстачка

**tissue paper** тóнкая, мяккáя папéра; папірóсная папéра

**titanic** [taɪˈtænɪk] adj. тытанічны

**titbit** *гл.* **tidbit**

**tit for tat** вóка за вóка, зуб за зуб

**tithe** [taɪð] n. 1. дзесятая чáстка. 2. малáя чáстачка

**title** [ˈtaɪtəl] – n. 1. загалó|вак -ўка *m.*, тытул -а *m.* 2. тытул -у *m.*; ранг -у *m.* 3. першынствó *n.*: ***the tennis title*** пéршае мéсца ў тэ́нісе. 4. Law кýпчая *f.* 5. назó|ў -ву *m.*: ***There are 5,000 titles in our library*** У нáшай бібліятэ́цы ёсьць 5,000 назóваў кніг
– v.t. тытулавáць

**titled** [ˈtaɪtəld] adj. тытулавáны: ***a titled nobleman*** тытулавáны шляхціч

**title deed** кýпчая *f.*

**title page** тытýльная старóнка

**title role** or **part** тытульная рóля

**to** [tu:] – prep. 1. на : а) ***Go to the right*** Ідзі напрáва; ***He came to the rescue*** Ён прыйшóў на дапамóгу; ***To my amazement, he jumped*** На маё зьдзіўлéньне ён скóчыў; ***She tore the letter to pieces*** Янá парвáла ліст на кавáлачкі; ***What did he say to that?*** Што ён сказáў на гэ́та?; ***Four apples to the pound*** Чатыры яблыкі на фунт. 2. да: ***Go to the river*** Ідзéце да рэ́чкі; ***Wet to the skin*** Прамóклы да ніткі; ***From dawn to dusk*** Ад сьвітáньня да зьмяркáньня; ***Fasten it to the wall*** Прымацýй гэ́та да сьцяны; ***A fact known to few*** Факт вядóмы нямнóгім. 3. пад: ***We danced to the music*** Мы танцавáлі пад мýзыку. 5. *ужывáецца, каб паказáць накіравáнасьць*: ***Give the book to me*** Дай мне кнігу; ***Speak to her*** Пагаварыі зь ёю. 6. ад: ***The key to my room*** Ключ ад майгó пакóю. 7. *ужывáецца зь дзеясло́вамі ў інфінітыве*: ***He likes to read*** Ён лю́біць чытáць; ***The birds began to sing*** Птýшкі пачалі пяяць. 8. *замяняе інфінітыў галóўнага скáзу*: ***I shall go there if you want me to*** Я пайдý туды, калі вы хóчаце
– adv. да сябé: ***She came to*** Янá прыйшлá да сябé
***• drink to someone*** піць у нéчы гóнар *або́* за нéчае здарóўе
***• to and fro*** туды і сюды; узáд і ўпéрад

**toad** [toʊd] n. 1. рапýха *f.*; жáба *f.* 2. Figur. агідны чалавéк

**toady** [ˈtoʊdi] – n., pl. **toadies** падхалім -а *m.*

– v.i. 1. падлізвацца, падхалімнічаць. 2. лісьлівіць

**to-and-fro** [ˌtu:ənˈfrou] adj. хісткі

**toast I** [toust] – n. 1. тост -а *m.*, грэнка *f.*
– v.t. рабіць тосты, грэнкі. 2. моцна награвáць

**toast II** [toust] – n. 1. тост -у *m.*: ***to drink a toast to*** выпіць тост за *каго́*. 2. ушанóўваная асоба: ***She was the toast of the evening*** Янá былá зóркай вéчара
– v.t. уздымáць тост; піць за здарóўе

**toaster I** [ˈtoustər] n. тóстар -а *m.*

**toaster II** [ˈtoustər], n. асоба, якáя прапанýе тóсты

**toastmaster** [ˈtoustmæstər] n. тамадá *f.*, асóба, якáя вядзé банкéт

**tobacco** [təˈbækou] n., pl. **-cos, -coes** 1. тытýнь -ю *m.* 2. табáка *f.*

**tobacconist** [təˈbækənɪst] n. гандляр тытунёвымі вырабамі

**toboggan** [təˈbɑ:gən] – n. сáнкі без палазóў
– v.i. зьяжджáць з гóркі на сáнках

**today** or **to-day** [təˈdeɪ] – n. 1. сёньня, сягóньня, сяньня. 2. цяпéрашні час
– adv. 1. сёньня, сягóньня. 2. цяпéрашнім часам; цяпéр

**toddle** [ˈtɑ:dəl] v.i. хадзіць няпэўнымі крóкамі (*як дзіцятка*)

**toddler** [ˈtɑ:dlər] n. дзіця, якóе пачынáе хадзіць

**to-do** [təˈdu:] n., Informal мітусьня, шуміха *f.*

**toe** [tou] – n. 1. пáлец (*на назé*). 2. насóк (*панчóхі, чаравíка*). 3. пярэдняя чáстка капытá
– v. 1. датыкáца пáльцамі (*наскáмі*). 2. біць цьвік наўскóс
• ***on one's toes*** гатóвы да дзéяньня, напагатóве; пільны, чýйны
• ***step on one's toes*** наступíць нéкаму на пáльцы
• ***toe the line*** а) стаць на стáртавую лíнію. б) трымáцца прáвілаў, в) стрóга падпарáдкавацца дактрыне

**toe-in** [ˈtouɪn] n. зьбéжнасьць пярэдніх кóлаў (*у аўтамабíлі*)

**toeless** [ˈtouləs] adj. бяз пáльцаў (*на назé*)

**toenail** [ˈtouneɪl] – n. 1. пазнóгаць на пáльцы нагí. 2. цьвік убíты наўскасяк (*пры зьбівáньні*)
– v.t. зьбіць цьвікóм наўскóс

**toga** [ˈtougə] n., pl. **-gas, -gae** 1. тóга *f.* 2. мáнтыя *f.*

**together** [təˈgeðər] adv. 1. рáзам; сумéсна; супóльна: ***They were walking together*** Яны йшлí рáзам. 2. ***to call together*** склікáць; ***to sew together*** сшывáць. 3. аднача́сна. 4. безупы́нна, бесьперапы́нна: ***He worked for days and nights together*** Ён працавáў бесьперапы́нна днямí й начамí
• ***get together,*** Informal а) сустрэ́цца. б) пагадзíцца, згадзíцца: ***to get together on a price*** пагадзíцца на цанý
• ***together with*** рáзам, супóльна з *кім-чым*

**togetherness** [təˈgeðərnəs] n. супóльнасьць *f.*, адзíнства *n.*

**toil I** [tɔɪl] – n. цяжкáя прáца
– v.i. 1. цяжка працавáць. 2. зь цяжкасьцю ісьцí
– v.t. рабíць цяжкóю прáцай

**toil II** [tɔɪl] n., often **toils,** pl. сéтка *f.*; сíлó *n.*; пáстка *f.*

**toiler** [ˈtɔɪlər] n. рабацяга, працаlвéнь -ўня́ *m.*

**toilet** [ˈtɔɪlət] – n. 1. туалéт -у, -а *m.* (*прычэ́сваньне, адзявáньне; вóпратка*). 2. прыбірáльня *f.*
– adj. туалéтны

**toiletry** [ˈtɔɪlətri] n., pl. **-ries** туалéтныя рэ́чы

**toilet tissue** прыбірáльная папéра

**toilet training** прывучáньне да гаршкá (*пра дзіця́*)

**toilet water** адэкалён -у *m.*

**token** [ˈtoukən] – n. 1. а) знак -у *m.*, сы́мбаль -ю *m.*: ***Black is a token of mourning*** Чóрны кóлер — сы́мбаль жалóбы. б) дóвад -у *m.* в) характэ́рная адзнáка, прыкмéта *f.* 2. знак прыя́зьні. 3. жэтóн -а *m.*
– adj. сымбалíчны: ***a token payment*** сымбалíчная плáта

***• by the same token*** гэ́тым зна́кам, гэ́тым чы́нам

***• in token of*** у знак *або́* ў до́каз чаго́

**told** [tould] v., *p.t. of* **tell**

**tolerable** [ˈtɑ:lərəbəl] adj. 1. сьце́рпны, цярпі́мы. 2. нядрэ́нны, ніштава́ты: ***She is in tolerable health*** Яна́ ў нядрэ́нным здаро́ўі

**tolerably** [ˈtɑ:lərəbli] adv. цярпі́ма

**tolerance** [ˈtɑ:lərəns] n. 1. прыце́рплівасьць, талера́нтнасьць, памяркоўнасьць *f.* 2. талерава́ньне *n.* 3. Tech. мяжа́ *f.*, до́пуск -у *m.*

**tolerant** [ˈtɑ:lərənt] adj. прыце́рплівы, талера́нтны

**tolerantly** [ˈtɑ:ləræntli] adv. прыце́рпліва, талера́нтна

**tolerate** [ˈtɑ:ləreɪt] v.t. 1. дазваля́ць, дапушча́ць, талерава́ць. 2. цярпе́ць; зно́сіць

**toleration** [ˌtɑ:ləˈreɪʃən] n. цярпе́ньне, талерава́ньне *n.*

**toll I** [toul] – v.i. 1. біць у звон. 2. скліка́ць, апавяшча́ць зво́нам

– n. 1. звон (*гук*). 2. уда́р у звон

**toll II** [toul] n. 1. мы́та *n.*, по́шліна *f.*: ***We pay a toll when we use the bridge*** Мы пла́цім за прае́зд праз мо́ст; ***toll on long distance telephone calls*** пла́та за міжгаро́днія тэлефо́нныя гу́таркі. 2. Figur. шко́да, стра́та *f.*: ***The Charnobyl disaster took a heavy toll of human lives*** Чарно́быльская катастро́фа нане́сла цяжкія людзкія стра́ты

**tollbooth** [ˈtoulbu:θ] n. заста́ва для збо́ру мы́та

**toll bridge** пла́тны мост

**toll call** міжгаро́дняя тэлефо́нная гу́тарка

**toll-free** [ˌtoulˈfri:] adj. бяспо́шлінны, бяспла́тны, бяз мы́та

**tollgate** [ˈtoulgeɪt] n. заста́ва, дзе пла́ціцца за прае́зд

**tom** or **Tom** [tɑ:m] n. 1. кот (*саме́ц*). 2. саме́ц некато́рых жывёлаў

**tomato** [təˈmeɪtou] – n., pl. **-toes** памідо́р, тама́т -а *m.* (*расьлі́на і плод*)

– adj. памідо́рны, тама́тны

**tomb** [tu:m] n. 1. магі́ла *f.*, дол -у *m.* 2. грабні́ца, магі́льня *f.*; маўзале́й -я *m.* 3. Figur. сьмерць *f.*

**tomboy** [ˈtɑ:mbɔɪ] n. дзяўчы́на-ві́сус; сарвігалава́, гарэ́за *f.*

**tombstone** [ˈtu:mstoun] n. надмагі́льны по́мнік

**Tommy** or **tommy** [ˈtɑ:mi] n., pl. **-mies** то́мі (*мяну́шка брыта́нскага жаўне́ра*)

**tomorrow** or **to-morrow** [təˈmɑ:rou] – n. за́ўтрашні дзень

– adv. за́ўтра: ***the day after tomorrow*** пaза́ўтра, пасьляза́ўтра

**tom-tom** [ˈtɑ:mtɑ:m] n. 1. там-та́м -а *m.* 2. манато́нны рытм

**tone** [toun] – n. 1. тон -у *m.* 2. тон -у *m.*, мане́ра *f.*: ***a moral tone*** павуча́льны тон. 3. хара́ктар -у *m.*, агу́льны вы́гляд, стыл|ь -ю *m.*: ***tone of elegance*** тон элега́нтнасьці. 4. афарбо́ўка *f.*, ко́лер -у *m.*; адце́ньне ко́леру: ***I like the soft green tone of this painting*** Мне падаба́ецца спако́йны зялёны тон гэ́тага малю́нку

– v. надава́ць тон; задава́ць тон (*пака́зва́ць пры́клад*)

***• tone down*** сьці́шыць тон, зьмякчы́ць ко́леры

***• tone up*** узмацні́ць

**toneless** [ˈtounləs] adj. 1. манато́нны, без інтана́цыі. 2. невыра́зны; бяско́лерны. 3. бязгу́чны

**tongs** [tɑ:ŋz] n., pl. шчы́пцы *pl. only*

**tongue** [tʌŋ] n. 1. язы́к -а́ *m.* 2. мо́ва, гаво́рка *f.* 3. язы́к у чараві́ку. 4. каса́ *f.*, мыс -а *m.* 5. язы́к (*по́лымя, агню́, звона*). 6. ды́шл|аль -ля *m.*: ***the tongue of a wagon*** ды́шаль во́за

***• hold one's tongue*** маўча́ць, трыма́ць язы́к за зуба́мі

***• on*** (or ***at***) ***the tip of one's tongue*** на ко́нчыку языка́

**tonic** [ˈtɑ:nɪk] – n. 1. то́нік -у *m.*, узмацня́льны, аздараўля́льны сро́дак. 2. Mus. то́ніка *f.* 3. шыпу́чы напі́так

– adj. танізу́ючы, узмацня́льны; аздараўля́льны: ***The mountain air is tonic*** Го́рнае паве́тра аздараўля́е

**tonight** or **to-night** [təˈnaɪt] – n. сёньняшні вечар
– adv. сёньня ўвечары

**tonnage** [ˈtʌnɪdʒ] n. 1. танаж -у́ m. (*вагона, самалёта*). 2. груз -у m. 3. карабельная аплата мыта (*у разьліку за тону*)

**tonsil** [ˈtɑ:nsəl] n. міндальная залоза

**tonsillitis** [ˌtɑ:nsəˈlaɪtəs] n. танзіліт -у m., ангіна f., запаленьне міндалінаў

**too** [tu:] adv. 1. таксама, да таго: ***Will you come too?*** Ці вы таксама прыйдзеце? 2. за; занадта: ***My dress is too long for you*** Мая сукенка задаўгая для цябе; ***too hot*** занадта горача; ***too quickly*** захутка. 3. надта, вельмі: ***I am not too hungry*** Я ня надта галодны; ***too bad*** вельмі шкада; ***I am only too glad to help*** Я вельмі рады дапамагчы

**took** [tʊk] v., *p.t. of* **take**

**tool** [tu:l] – n. 1. прылада f.; інструмэнт -а m.
– v.i. апрацоўваць прыладай

**toot** [tu:t] – n. сьвістlок, гудlок -ка m.
– v.i. гудзець, трубіць; сьвістаць

**tooth** [tu:θ] – n., pl. **teeth** [ti:θ] 1. зуб -а m. 2. а) зуб грэбеня; зублец -ца m., зубцы pl. *або* зуб'е *coll.* (*грабляў, пілы*). б) зубы, зубцы pl. (*у машыне*)
– v.t. 1. устаўляць зубы. 2. наразаць зубы
• ***have no tooth for fruit*** не любіць садавіну

**toothache** [ˈtu:θeɪk] n. зубны боль

**toothbrush** [ˈtu:θbrʌʃ] n. зубная шчотка

**toothed** [tu:θt] adj. 1. з зубамі, які мае зубы, зубасты. 2. зубчаты, зубчасты, з зуб'ём (*пра кола*)

**toothless** [ˈtu:θləs] adj. бяззубы

**toothpaste** [ˈtu:θpeɪst] n. зубная паста

**toothpick** [ˈtu:θpɪk] n. зубачыстка f.

**top I** [tɑ:p] – n. 1. верхавіна f. (*гары*), вяршаліна f. (*дрэва*). 2. верх -у m.: ***the top of the table*** верх стала. 3. найвышэйшае *або* першае месца: ***to be at the top of the class*** быць найлепшым вучнем у клясе. 4. накрыўка f., века, вечка n. (*гаршка*). 5. верх -у m. (*аўтамабіля*). 6. макушка f. 7. верхняя частка адзеньня (блюзка, швэдар)
– adj. 1. верхні: ***the top shelf*** верхняя паліца. 2. найбольшы: ***at top speed*** з найбольшай хуткасьцю; ***top price*** найвышэйшая цана
– v.t. 1. накрываць вечкам. 2. дасягаць верху, зэніту: ***They topped the mountain*** Яны зайшлі на самы верх гары. 3. перавышаць, быць найлепшым
• ***at the top of one's voice*** на ўвесь голас
• ***blow one's top,*** Sl. узлавацца, выбухнуць; звар'яцець
• ***from top to toe*** з галавы да ног
• ***on top of everything (else)*** у дадатак да ўсяго
• ***over the top*** звыш нормы
• ***top off*** завяршыць

**top II** [tɑ:p] n. ваўчlок -ка m. (*цацка*)

**topaz** [ˈtoʊpæz] n. тапаз -у m.

**topcoat** [ˈtɑ:pkoʊt] n. мужчынскае паліто

**top drawer,** Informal вярхі грамадзтва, сьмятанка f.

**topic** [ˈtɑ:pɪk] n. 1. прадмет -у m. (*разважаньняў, гутаркі*). 2. тэма f.

**topless** [ˈtɑ:pləs] adj. 1. без вярхушкі. 2. напоўголая, з голымі грудзьмі

**topmost** [ˈtɑ:pmoʊst] adj. найвышэйшы

**topographer** [təˈpɑ:grəfər] n. тапограф -а m.

**topographical** [ˌtɑ:pəˈgræfɪkəl] adj. тапаграфічны

**topography** [təˈpɑ:grəfi] n., pl. **-phies** тапаграфія f.

**topple** [ˈtɑ:pəl] – v.i. 1. валіцца: ***The chimney toppled over on the roof*** Комін зваліўся на страху. 2. навісаць, зьвісаць, абвісаць: ***beneath toppling crags*** пад навіслымі скаламі
– v.t. валіць, перакульваць: ***The wrestler toppled his opponent*** Барэц паваліў свайго супрацiўніка

**top secret** найвышэйшая таямніца

**top-secret** [ˌtɑ:pˈsi:krət] adj. цáлкам таéмны, звышсакрэ́тны
**topsoil** [ˈtɑ:psɔɪl] n. вéрхні пласт глéбы
**torch** [tɔ:rtʃ] n. 1. сьвéтач -а *m.*; пахóдня, сьвяцíльня *f.*, фáкел -а *m.* 2. Brit. электры́чны ліхтáрык
**torchbearer** [ˈtɔ:rtʃberər] n. 1. той, хто нясé пахóдню. 2. той, хто нясé сьвéтач; правады́р -á *m.*
**tore** [tɔ:r] v., *p.t. of* **tear II**
**toreador** [ˈtɔ:riədɔ:r] n. тарэадóр -а *m.*
**torment** [tɔ:rˈment] – v.t. 1. мýчыць. 2. мóцна непакóіць, назаляць, дакучáць: ***He torments everyone with silly questions*** Ён назаляе кóжнаму дурны́мі пытáньнямі
– n. [ˈtɔ:rmənt] 1. мýка *f.* 2. прычы́на згрызóтаў
**tormentor** or **tormenter** [tɔ:rˈmentər] n. 1. мучы́цел|ь -я *m.* 2. назóла *m. & f.*
**torn** [tɔ:rn] v., *p.p. of* **tear II**
**tornado** [tɔ:rˈneɪdoʊ] n., pl. **-does** or **-dos** 1. тарнáда *indecl.*, сьмерч -у *m.* 2. гвалтóўны пары́ў
**torpedo** [tɔ:rˈpi:doʊ] – n., pl. **-does** 1. тарпэ́да *f.* 2. падвóдная міна. 3. сыгнáльная пэтáрда
– v.t. 1. узрывáць тарпэ́дай. 2. зрывáць: ***to torpedo a peace conference*** сарвáць мíрную канфэрэ́нцыю
**torpedo boat** тарпэ́дны кáтэр
**torpid** [ˈtɔ:rpəd] adj. анямéлы, вя́лы, апаты́чны
**torpor** [ˈtɔ:rpər] n. 1. анямéласьць *f.* 2. апáтыя *f.* 3. тýпасьць *f.*
**torrent** [ˈtɔ:rənt] n. 1. бурлíвы патóк. 2. лí|вень -ўню *m.* 3. Figur. патóк -у *m.*: ***a torrent of abuse*** патóк крыўды
**torrential** [tɔ:ˈrenʃəl] adj. праліўны́: ***torrential rains*** праліўны́я дажджы́; ***a torrential flow of words*** патóк слóваў
**torrid** [ˈtɔ:rəd] adj. 1. сьпякóтны: ***July can be a torrid month*** Лíпень бывáе сьпякóтным мéсяцам. 2. Figur. пáлкі
**torsion** [ˈtɔ:rʃən] adj. 1. кручэ́ньне *n.* 2. скрýчваньне *n.*
**torso** [ˈtɔ:rsoʊ] n., pl. **-sos** 1. тýлава *n.* 2. торс -а *m.* 3. Figur. нéшта зьнявéчанае *або* незакóнчанае
**tort** [tɔ:rt] n. парушэ́ньне грамадзя́нскага прáва, нанéсеная шкóда
**torte** [tɔ:rt] n., pl. **torten** *or* **tortes** торт -а *m.*
**tortoise** [ˈtɔ:rtəs] n., pl. **-toise** or **-toises** 1. чарапáха *f.* 2. Figur. марýд|а -ы *m.&f.*
**tortoise shell** чарапáшы пáнцыр
**torture** [ˈtɔ:rtʃər] – n. 1. катавáньне *n.* 2. мýка, пакýта *f.*
– v.t. 1. мýчыць, катавáць. 2. Figur. калéчыць: ***He tortured the language*** Ён калéчыў мóву
**torturous** [ˈtɔ:rtʃərəs] adj. пакýтлівы, балю́чы, балéсны
**toss** [tɔ:s] – v.t., **tossed** or (Poet.) **tost** 1. кíдаць, падкідáць: ***to toss a ball*** падкідáць мя́чык; ***to toss a coin*** гуля́ць у арля́нку; кíдаць жэ́рабя. 2. шугáць, кíдаць: ***The ship was tossed by the heavy waves*** Карабéль шугáла на магýтных хвалях. 3. ускíдваць: ***She tossed her head*** Янá ўскíнула галавý. 4. мяшáць, падкідáючы: ***to toss a salad*** мяшáць салáту, падкідáючы
– v.i. кíдацца ў лóжку
– n. 1. кід|óк -кá *m.* 2. кíданьне, падкідáньне *n.*
• ***toss off*** а) хýтка спрáвіцца, збыць. б) вы́піць зáлпам
**toss-up** *or* **topssup** [ˈtɔ:sʌp] n. аднóлькавы шáнец: ***It's a tossup*** Надвóе бáбка варажы́ла
**total** [ˈtoʊtəl] – adj. 1. агýльны, увéсь: ***the total cost of the house and land*** агýльны кошт дóму й зямлí. 2. пóўны: ***a total failure*** пóўная няўдáча; ***total darkness*** пóўная цéмра; цéмра, хоць вóка вы́калі
– n. агýльная кóлькасьць, сýма *f.*, вы́нік -у *m.*
– v.t. 1. дадавáць, падсумóўваць: ***Total that column of figures*** Падсумýй увéсь слупóк. 2. складáць сýму: ***The money spent on food totals his entire salary*** Грóшы вы́даткаваныя на éжу складáюць увéсь ягóны зарóбак. 3. Informal пóўнасьцю разьбі-

ва́ць, зьнішча́ць: ***He totaled his car in an accident*** Ён ушчэ́нт разьбі́ў сваю́ машы́ну ў ава́рыі

**totalitarian** [toʊˌtæləˈteriən] – adj. таталіта́рны
– n. таталітары́ст -а *m.*

**totalitarianism** [toʊˌtæləˈteriənɪzəm] n. таталітары́зм -у *m.*

**totality** [ˌtoʊˈtæləti] n. уся́ ко́лькасьць, су́ма *f.*; паўната́ *f.*

**totally** [ˈtoʊtəli] adv. цалко́м, ца́лкам

**tote** [toʊt] v.t. ве́зьці, перавóзіць; не́сьці

**tote bag** вялі́кая су́мка, то́рба *f.*

**totter** [ˈtɑːtər] v.i. 1. ківа́цца, хіста́цца. 2. трэ́сьціся; дрыжэ́ць

**tottery** [ˈtɑːtəri] or **tottering** [ˈtɑːtərɪŋ] adj. хі́сткі, які́ хіста́ецца

**touch** [tʌtʃ] – v.t. 1. крана́ць, датыка́цца: ***She touched the pan*** Яна́ даткну́лася да патэ́льні; ***to touch bottom*** даста́ць да дна́. 2. межава́ць: ***A country that touches the mountains on the north*** Краі́на, яка́я на по́ўначы мяжу́е з го́рамі. 3. Figur. крана́ць: ***The sad story touched us*** Су́мная гісто́рыя крану́ла нас. 4. даты́чыць. 5. гавары́ць аб *чым*, закрана́ць. 6. дакрана́цца: ***He won't touch liquor or tobacco*** Ён не дакране́цца ні да гарэ́лкі ні да ку́рыва. 7. прыста́ць: ***The ship touched port*** Вадаплаў прыста́ў. 8. чапа́ць: ***Don't touch!*** Не чапа́й!
– v.i. 1. сутыка́цца, дакрана́цца: ***Their shoulders touched*** Іхныя плечукі́ дакрана́ліся. 2. затрымо́ўвацца, спыня́цца: ***a ship that touches at many ports*** карабе́ль, які́ спыня́ецца ў шмат які́х парто́х. 3. Figur. закрана́ць, зга́дваць: ***His speech touched on many problems*** Яго́ная прамо́ва закрану́ла шмат пыта́ньняў
– n. 1. до́тык -у *m.*: ***A bubble bursts at a touch*** Бу́рбалка ло́пае пры до́тыку. 2. пачуцьцё до́тыку: ***The blind have a keen touch*** Сьляпы́я ма́юць то́нкае пачуцьцё до́тыку. 3. крыха́ *f.*: ***a touch of frost*** мале́нькі маро́з; ***a touch of fever*** лёгкая гара́чка. 4. тон -у *m.*, но́та *f.*: ***a touch of sarcasm*** но́та сарка́зму. 5. штрых -а́ *m.*, ры́ска: ***to put the finishing touches*** рабі́ць апо́шнія штрыхі́. 6. мане́ра *f.*, прыёмы *pl.*; я́касьць *f.*: ***The work showed an expert's touch*** Рабо́та пака́звала руку́ спэцыялі́ста. 7. адце́ньне *n.*, пры́смак -у *m.*: ***a touch of mint*** пры́смак мя́ты; ***a touch of bitterness*** адце́ньне го́рычы
• ***in touch*** у су́вязі, у канта́кце
• ***out of touch*** ня ў ку́рсе спра́ваў, без су́вязі
• ***touch and go*** няпэ́ўнае, рызыко́ўнае або́ небясьпе́чнае стано́вішча; няпэ́ўны вы́нік
• ***touch down*** прызямля́цца (*пра самалёт*)
• ***touch on*** or ***upon*** а) ко́ратка закрану́ць (*пыта́ньне*). б) межава́ць з *чым*
• ***touch up*** а) крыху́ зьмяні́ць, падпра́віць. б) рэтушава́ць: ***to touch up a photograph*** рэтушава́ць здымак

**touching** [ˈtʌtʃɪŋ] – adj. даты́чны; крана́льны, зварушлі́вы, хвалю́ючы
– prep. пра *каго́-што*, адно́сна: ***He asked many questions touching my profession*** Ён шмат распы́тваўся пра маю́ прафэ́сію

**touchy** [ˈtʌtʃi] adj. 1. крыўдлі́вы. 2. чу́лы 3. далікатны (*спра́ва, пыта́ньне*)

**tough** [tʌf] – adj. 1. тугі́. 2. цьвярды́. 3. мо́цны, ду́жы; трыва́лы, загартава́ны, вынóсьлівы: ***a tough plant*** трыва́лая расьлі́на. 4. цяжкі́: ***tough work*** цяжка́я пра́ца. 5. упа́рты, цяжкі́, задзі́рысты (*пра чалаве́ка*)
– n. мо́цны, ду́жы чалаве́к; забія́к|а -і *m.*, задзі́р|а -ы *m.*
• ***tough luck*** няўда́ча

**toughen** [ˈtʌfən] – v.t. узмацня́ць, рабі́ць цьвярдзе́йшым, больш трыва́лым
– v.i. мацне́ць; цьвярдзе́ць, рабі́цца больш трыва́лым

**tour** [tʊr] – v. 1. падаро́жнічаць: ***Last year they toured Europe*** Ле́тась яны́ падаро́жнічалі па Эўро́пе. 2. рабі́ць турнэ́. 3. аглядáць: ***to tour the museum*** агле́дзець музэ́й

– n. 1. падаро́жжа *n.* 2. аглéдзіны *pl.*: ***a tour of the old city*** аглéдзіны старо́га го́раду

• ***on tour*** у турнэ́

**tourism** [ˈtʊrɪzəm] – n. туры́зм -у *m.*

– adj. турысты́чны (*пра пахо́д, бюро́*)

**tourist** [ˈtʊrəst] – n. туры́ст -а *m.*, туры́стка *f.*

– adj. туры́сцкі

**tournament** [ˈtʊrnəmənt] n. турні́р -у *m.*

**tout** [taʊt] – v.t. 1. дамагáцца, выбівáць; шукáць (кліéнтаў, прáцы). 2. расхвáльваць

– n. чалавéк, які́ шукáе кліéнтаў; Sl. наво́дчык -а *m.*

**tow I** [toʊ] – v.t. цягну́ць на буксíры

– n. 1. буксíраваньне *n.* 2. буксíр -у *m.* 3. буксíрны канáт. 4. карабéль, аўтамабíль на буксíры

• ***in tow*** а) на буксíры. б) Informal мець у хвасьцé, пад апéкай; цягну́ць з сабо́й

**tow II** [toʊ] – n. 1. кудзéля *f.*, зрэ́б'е *n.* 2. пáкульле *n.*

– adj. зрэ́бны

**towage** [ˈtoʊɪdʒ] n. 1. буксіро́ўка *f.* 2. аплáта за буксіро́ўку

**toward** [tɔ:rd] prep. 1. на, да, у кіру́нку: ***He walked toward the north*** Ён ішо́ў на по́ўнач. 2. адно́сна, нако́нт; што да: ***What is his attitude toward war?*** Які́ яго́ны пагля́д адно́сна вайны́? 3. каля́, блíзка, пад: ***Toward the end of March*** Пад канéц сакавікá. 4. на: ***Will you give something toward our new church?*** Ці вы дасьцё нéшта на нáшую но́вую царкву́?

**toward(s)** [tɔ:rdz] *гл.* **toward**

**tow-boat** [ˈtoʊboʊt] n. бáржа *f.*

**towel** [ˈtaʊəl] – n. ручнік -á *m.*

– v. выцірáць ручніко́м

**towelling**, Brit. **toweling** [ˈtaʊəlɪŋ] n. палатно́ на ручнікí

**tower** [ˈtaʊər] – n. 1. вéжа *f.*; вы́шка *f.* 2. цьвярды́ня, цытадэ́ль *f.*

– v.i. вы́сіцца

**towering** [ˈtaʊərɪŋ] adj. вéльмі высо́кі, высачэ́зны

**towline** [ˈtoʊlaɪn] n. буксíрны канáт, ланцу́г

**town** [taʊn] n. 1. го́рад -у *m.*, гарадlо́к -кá *m.*, мястэ́чка *n.* 2. гараджáне *pl.* 3. гандлёвая чáстка го́раду

**town clerk** гарадскí справаво́д

**town hall** рáтуша *f.*

**townsfolk** [ˈtaʊnzfoʊk] n. гараджáне *pl.*

**townsman** [ˈtaʊnzmən] n., pl. **-men** гараджáнін -а *m.*

**townspeople** [ˈtaʊnzˌpi:pəl] *гл.* **townsfolk**

**toxic** [ˈtɑ:ksɪk] adj. ядавíты, атру́тны

**toxicant** [ˈtɑ:ksɪkənt] – adj. таксíчны, ядавíты

– n. атру́та *f.*

**toxicity** [tɑ:kˈsɪsəti] n., pl. **-ties** атру́тнасьць, ядавíтасьць *f.*

**toxin** [ˈtɑ:ksən] n. таксíн -у *m.*

**toy** [tɔɪ] – n. 1. цáцка, забáўка *f.*

– adj. 1. цáцачны, прызнáчаны для гульні́. 2. вéльмі малéнькі: ***toy dog*** малéнькі хáтні сабáчка

– v.i. 1. гуля́ць, цáцкацца, забаўля́цца. 2. непавáжна стáвіцца, вадзíць за нос

**trace I** [treɪs] – n. 1. знак -у *m.*; сьляды́, рэ́шткі *pl.*: ***The explorer found traces of an ancient city*** Дасьлéднік знайшо́ў рэ́шткі старажы́тнага мéста. 2. сьлед -у *m.*; сьцéжка *f.*; шлях -у *m.*: ***traces of rabbits on the snow*** заéчыя сьляды́ на сьнéзе. 3. крыхá *f.*; малéнькая ко́лькасьць: ***There wasn't a trace of grey in her hair*** У éйных валасо́х не было́ анí крыхí сівізны́

– v.t. 1. высо́чваць, ісьці́ па сьлядо́х: ***to trace deer*** вы́сачыць сáрну. 3. накідáць, накрэ́сьліваць: ***to trace a plan of the fort*** накрэ́сьліць плян фо́рту. 4. калькавáць. 5. выво́дзіць (*лíтары*). 6. выяўля́ць: ***I could not trace any anger in her voice*** У яé го́ласе не было́ й знáку зло́сьці

• ***kick over the traces*** выхо́дзіць з падпарáдкаваньня

• ***trace back*** прасачы́ць да пачáткаў

• ***trace to*** прывéсьці, давéсьці да

**trace II** [treɪs] n. пастрóн|ак -ка *m.*
**trachoma** [trəˈkoʊmə] n. трахóма *f.*
**tracing** [ˈtreɪsɪŋ] n. скалькавáная кóпія
**track** [træk] – n. 1. чыгýначная каляя́, чыгýначныя рэ́йкі. 2. сьлед -у *m.*: ***animal's tracks*** сьляды́ зьвяра́. 3. каляі́на *f.* 4. сьцéжка *f.*, глухáя дарóжка. 5. бегавáя дарóжка, трэк -у *m.* 6. гýсеніца *f.* (*трáктара, тáнка*)
– v.t. 1. высóчваць (*зьвяра́*). 2. нападáць на сьлед: ***to track down a criminal*** вы́сачыць злачы́нца. 3. сьлядзі́ць: ***Don't track mud into the house*** Не сьлядзі́, не нанóсь грáзі ў хáту
• ***jump the track*** сыйсьці́ з рэ́ек
• ***keep track of*** сачы́ць, цікáвіцца *чым*
• ***lose track of*** стрáціць арыентáцыю ў *чым*
• ***make tracks,*** Informal а) ірванýць. б) рабі́ць хýткія пóступы
• ***off the track*** на няпрáвільным шляхý; не на тэ́му
• ***on track*** (*стаць*) на прáвільны, адпавéдны шлях
• ***on the track of*** (*напáсьці*) на сьлед *кагó-чагó*
• ***the beaten track*** бі́тая дарóжка
• ***the wrong side of the tracks*** бéдны квартáл мéста
**track and field** лёгкая атлéтыка
**trackless** [ˈtrækləs] adj. 1. бясьсьлéдны; бездарóжны. 2. бязрэ́йкавы
**tract** [trækt] n. 1. разлóг, абшáр -у *m.*: ***a tract of desert*** пусты́нны абшáр. 2. Anat. тракт -у *m.*: ***(the) digestive tract*** стрававáльны тракт; ***respiratory tract*** ды́хальны тракт. 3. пэры́яд -у *m.* (*чáсу*)
**tractable** [ˈtræktəbəl] adj. 1. згавóрлівы, падáтлівы. 2. які́ лёгка падаéцца апрацóўцы, падáтлівы, кóўкі: ***Copper and gold are tractable metals*** Медзь і зóлата — кóўкія мэтáлы
**traction** [ˈtrækʃən] n. 1. ця́га *f.* 2. Phys. трэ́ньне, цéрце *n.* 3. цягнéньне *n.* 4. Med. нацягваньне вы́віхаў *ці* злóмаў
**tractor** [ˈtræktər] n. трáктар -а *m.*
**tractor trailer** грузаві́к з прычэ́пам
**trade** [treɪd] – n. 1. гáнд|аль -лю *m.*; гандлёвыя апэрáцыі, камэ́рцыя *f.*: ***wholesale trade*** гуртóвы гáндаль; ***retail trade*** рóзьнічны гáндаль; ***foreign trade*** замéжны *абó* зьнéшні гáндаль; ***domestic trade*** нутраны́ гáндаль. 2. абмéн -у *m.*: ***in trade for*** у абмéн за *штó*. 3. рамяствó *n.*, прафэ́сія *f.*, заня́т|ак -ку *m.*: ***the carpenter's trade*** стаЛя́рства, цясьля́рства *n.*; ***the building trade*** будаўні́цтва *n.*
– v.i. 1. гандлявáць. 2. вымéньваць, абмéньваць. 3. таргавáцца
– v.t. замяня́ць, абмéньваць
• ***the trades*** пасáты (*вятры́*)
• ***trade in*** здавáць старýю рэч у кошт кýплі нóвай
• ***trade off*** а) збывáць, абмéньваць. б) саступáць
• ***trade on*** вы́карыстаць *кагó*
**trade agreement** 1. гандлёвае пагаднéньне. 2. пагаднéньне памі́ж прафсаю́зам і працадáўцам
**trademark** [ˈtreɪdmɑːrk] n. 1. фірмóвая мáрка. 2. характэ́рная адзнáка
**trade-off** [ˈtreɪdɔːf] абмéн -у *m.*; састýпка *f.*; кампрамі́с -у *m.*
**trader** [ˈtreɪdər] n. 1. гандля́р -á *m.* 2. гандлёвы карабéль. 3. біржаві́к -á *m.*
**trade school** рамéсная шкóла
**tradesman** [ˈtreɪdzmən] n., pl. **-men** гандля́р -á, крáмнік -а *m.*; рамéсьнік -а *m.*
**tradespeople** [ˈtreɪdzˌpiːpəl] n., pl. гандляры́ *pl.*; рамéсьнікі *pl.*
**trade(s) union,** esp. Brit. прафсаю́з -у *m.*
**trade wind** пасáт -у *m.* (*вéцер*)
**trading post** гандлёвы пункт, фактóрыя *f.*
**tradition** [trəˈdɪʃən] n. 1. звы́ча|й -ю *m.* 2. трады́цыя *f.*
**traditional** [trəˈdɪʃənəl] adj. 1. традыцы́йны, векавы́. 2. звычаёвы
**traditionally** [trəˈdɪʃənəli] adv. традыцы́йна; згóдна з трады́цыяй
**traffic** [ˈtræfɪk] – n. 1. рух -у *m.* (*вýлічны, чыгýначны*); трáнспарт -у *m.* 2. гáнд|аль -лю *m.*, э́кспарт-і́мпарт

– v. вéсьці гáндаль, гандлявáць; абмéньваць: ***to traffic (in) illicit merchandise*** гандлявáць забарóненым тавáрам

**traffic jam** затóр -у *m.* (*аўтамабіляў на дарóзе*), кóр|ак -ка *m.*

**traffic light** сьветлафóр -а *m.*

**traffic ticket** штраф за парушэ́ньне прáвілаў язды́

**tragedy** [ˈtrædʒədi] n., pl. **-dies** трагéдыя *f.*

**tragic** [ˈtrædʒɪk] adj. трагíчны

**tragicomedy** [ˌtrædʒɪˈkɑːmədi] n., pl. **-dies** трагікамэ́дыя *f.*

**trail** [treɪl] – n. 1. сьлед -у *m.*, паласá *f.* : ***The car left a trail of dust behind it*** Аўтамабíль пакíнуў за сабóю паласу́ пы́лу; ***the trail of a rabbit*** зáйцаў сьлед. 2. дарóга, сьцéжка *f.* 3. шлейф -а *m.* 4. хвост хвастá *m.*

– v.t. 1. цягну́ц-ь (-ца): ***Her dress trails on the floor*** Сукéнка ў яé ця́гнецца па падлóзе. 2. валачы́ць, мару́дзіць. 3. высóчваць па сьлядóх: ***to trail a bear*** вы́сачыць па сьлядóх мядзьвéдзя. 4. ісьці́ адзíн за адны́м, гу́жам. 5. хадзíць сьлéдам: ***The dog trailed him constantly*** Сабáка заўсёды хадзíў за ім сьлéдам

**trailer** [ˈtreɪlər] n. 1. прычэ́п -у *m.* 2. домпрычэ́п. 3. сьцéлістая расьлíна

**train** [treɪn] – n. 1. цягнíк -á *m.* 2. абóз -у *m.* 3. шлейф -а *m.* (*сукéнкі*). 4. хвост хвастá *m.*: ***the train of a comet*** хвост камэ́ты. 5. сьвíта *f.*, картэ́ж -у *m.* 6. Figur. чарадá *f.*: ***a train of misfortune*** чарадá няўдáчаў

– v.t. 1. трэнавáць, дрэсавáць; прывучáць: ***to train a dog*** трэнавáць сабáку. 2. вучы́ць (*спэцыя́льнасьці*). 3. аб'ярждж́аць; дрэсавáць: ***to train a horse*** аб'яжджáць каня́. 4. навучáць, рыхтавáць: ***to train personnel*** рыхтавáць кáдры

– v.i. практыкавáцца, трэнавáцца

• ***in train*** у працэ́се; у парáдку

• ***train a gun (telescope)*** настаўля́ць пісталéт (*тэлескóп*)

• ***train one's voice*** стáвіць гóлас

**trained** [treɪnd] adj. вы́муштраваны; вы́вучаны, наву́чаны

**trainee** [ˌtreɪˈniː] n. навучэ́н|ец -ца, практыкáнт -а *m.*; нававбрáн|ец -ца *m.*

**training** [ˈtreɪnɪŋ] – n. 1. практы́чнае навучáньне, падрыхтóўка *f.*: ***training for teachers*** ку́рсы для падрыхтóўкі настáўнікаў. 2. трэнірóўка *f.*

– adj. навучáльны, вучэ́бны

**trainman** [ˈtreɪnmən] n., pl. **-men** чыгу́начнік -а *m.*

**train oil** ры́бны алéй, алéй з марскíх жывёлін

**trait** [treɪt] n. асаблíвасьць, уласьцíвасьць, свóмасьць *f.*; характэ́рная ры́са

**traitor** [ˈtreɪtər] n. здрáднік, прадáжнік -а *m.*

**traitorous** [ˈtreɪtərəs] adj. здрáдніцкі, прадáжніцкі; здрáдлівы

**traitress** [ˈtreɪtrəs] n. здрáдніца *f.*

**tram** [træm] n. 1. esp. Brit. трамвá|й -я *m.* 2. падвéсная ваганэ́тка

**tramp** [træmp] – v.i. 1. ця́жка ступáць, ту́паць: ***He tramped across the room in his heavy boots*** Ён ту́паў па пакóі у цяжкíх бóтах. 2. таптáць: ***He tramped on the flowers*** Ён патаптáў квéткі. 3. ісьці́, маршыравáць: ***Soldiers tramped through the street*** Салдáты прамаршыравáлі па ву́ліцы. 5. бадзя́цца, цягáцца, валачы́ся

– n. 1. ту́пат -у *m.* 2. пахóд -у *m.* 3. бадзя́г|а, валацу́г|а -і *m.*

**trample** [ˈtræmpəl] – v.t. 1. таптáць, затóптваць: ***The herd of wild cattle trampled the man to death*** Стáтак спу́джанай скацíны затаптáў чалавéка нáсьмерць. 2. вытóптваць; дратавáць; талачы́ць (*пасéвы, травý*). 3. Figur. пагарджáць, зьневажáць: ***to trample under foot, to trample on*** or ***upon*** абыхóдзіцца зьнявáжліва, мяшáць з гразёй

– n. ту́пат -у *m.*

**trance** [træns] – n. транс -у *m.*

– v. прывéсьці, упáсьці ў транс

**tranquil** [ˈtrænkwɪl] adj. спакóйны, мíрны, цíхі; духóва спакóйны

**tranquil(l)ity** [trænˈkwɪləti] n. супакóенасьць *f.*, спакóй -ю *m.*; цішыня́ *f.*

**tranquilize** [ˈtrænkwəlaɪz] – v.t. 1. супакóйваць. 2. супакóйваць, сунімáць (*боль*)

– v.i. супакóйвацца

**tranquilizer** [ˈtrænkwəlaɪzər] n. транквілізáтар -а *m.*, заспакая́льны срóдак

**trans-**, [træns] prefix. 1. праз-; пéра-; транс-,: ***transcontinental*** транскантынэнтáльны; ***to transmit*** перадавáць. 2. за, на другíм бакý: ***transoceanic*** заакія́нскі, замóрскі. 3. пера-: ***to transform*** launch перaтварáць; ***to transfer*** перанóсіць; ***to translate*** перакладáць

**transact** [trænˈsækt] v.t. вéсьці гандлёвыя спрáвы; гандлявáць

**transaction** [trænˈsækʃən] n. 1. вядзéньне гандлёвай спрáвы. 2. гандлёвая апэрáцыя. 3. пратакóл -у *m.* (*зьдзéлкі*); ***transactions*** прáцы, пратакóлы (*навукóвага тавáрыства, клю́бу*)

**transalpine** [ˌtrænˈsælpaɪn] adj. трансальпíйскі

**transatlantic** [ˌtrænsətˈlæntɪk] adj. трансатлянты́чны

**transcend** [trænˈsend] v.t. 1. перасягáць, перахóдзіць (*мéжы, магчы́масьці*). 2. перавышáць, пераўзыхóдзіць. 3. быць надзвычáйным

**transcendent** [trænˈsendənt] adj., Philos. трансцэндэ́нтны, трансцэндэнтáльны; пазаматэрыя́льны

**transcribe** [trænˈskraɪb] v.t. 1. перапíсваць. 2. транскрыбавáць, рабíць транскры́пцыю

**transcriber** [trænˈskraɪbər] n. перапíсчык -а *m.*

**transcript** [ˈtrænskrɪpt] n. запíсаная кóпія (*прамóвы, лéкцыі*)

**transfer** – v.t. 1. [trænsˈfɜːr] перадавáць (*маёмасьць*). 2. перавóзіць; перанóсіць; перамяшчáць. 3. калькавáць, перавóдзіць (*малю́нак*). 4. перавóдзіць (*у íншую шкóлу, на íншую прáцу*). 5. перавóдзіць (*грóшы праз банк*)

– v.i. перасядáць, рабíць перасáдку

– n. [ˈtrænsfɜːr] 1. Law перадáча *f.*; дакумэ́нт перадáчы: ***transfer of authority*** перадáча паўнамóцтва. 2. перавóдны малю́нак. 3. перасáдка *f.* 4. перасáдачны квітóк. 5. перавóд (*грóшай*)

**transfiguration** [ˌtrænsˌfɪgjəˈreɪʃən] n. пературварэ́ньне *n.*, перамéна *f.*

• ***the Transfiguration,*** Rel. Перамянéньне, Праабражэ́ньне *n.*

**transfigure** [trænsˈfɪgjər] v.t. пературварáць, відазьмяня́ць

**transform** [trænsˈfɔːrm] – v.t. (into) 1. пературварáць, перамяня́ць; перарабля́ць. 2. Phys. пературварáць адзíн род энэ́ргіі ў другí: ***A dynamo transforms mechanical energy into electricity*** Дынáма пературварáе мэханíчную энэ́ргію ў электры́чнасьць. 3. Electr трансфармавáць

– v.i. пературварáцца: ***A tadpole transforms into a frog*** Апалóнік пературварáецца ў жáбу

**transformation** [ˌtrænsfərˈmeɪʃən] n. 1. пературварэ́ньне *n.* 2. трансфармáцыя *f.*

**transformer** [trænsˈfɔːrmər] n. трансфармáтар -а *m.*

**transfuse** [trænsˈfjuːz] v.t. 1. а) пералівáць. б) перадавáць. 2. Med. рабíць пералівáньне *n.* (*крывí*)

**transfusion** [trænsˈfjuːʒən] n. 1. а) пералівáньне *n.* (*крывí*). б) перадавáньне *n.* 2. пералівáньне *n.*

**transgress** [trænsˈgres] v.t. 1. парушáць (*закóн, прáвіла*). 2. переступáць: ***to transgress the bounds of good taste*** переступíць мяжý дóбрага тóну. 3. грашы́ць

**transgression** [trænsˈgreʃən] n. 1. парушэ́ньне прáвіла. 2. правíннасьць *f.*; грэх грахý *m.*

**transgressor** [trænsˈgresər] n. 1. правапарушáльнік -а *m.* 2. грэ́шнік -а *m.*

**transience** [ˈtrænziəns] or **transiency** [ˈtrænziənsi] n. перахóднасьць, часóвасьць *f.*

**transient** [ˈtrænziənt] – adj. часóвы, перахóдны, нядóўгатрывáлы

– n. праéжджы пастаялец

**transit** [ˈtrænsət] n. 1. транзы́т, перавóз -у m.: ***The goods were damaged in transit*** Тавáр быў пашкóджаны пры перавóзе. 2. зьмéна f., перахóд -у m. (*у íншы стан*). 3. тэадалíт -а m. (*інструмэ́нт*). 4. гарадзкí трáнспарт

**transition** [trænˈzɪʃən] n. 1. перахóд (*з аднагó стáну ў другí*). 2. перахóдны пэры́яд

**transitional** [trænˈzɪʃənəl] adj. 1. перахóдны. 2. прамéжны, прамéжкавы

**transitive** [ˈtrænsətɪv] adj. перахóдны (*пра дзеясло́ў*)

**transitory** [ˈtrænsətɔːri] adj. часóвы, мінýчы; нядóўгатрывáлы

**translate** [ˈtrænsleɪt] v.t. 1. перакладáць. 2. перакáзваць. 3. перанóсіць. 4. трансьлявáць

**translation** [trænsˈleɪʃən] n. 1. перакладáньне n. (*на íншую мóву*). 2. пераклáд -у m. 3. трансьля́цыя f. (*у рáдыё, тэлевíзіі*). 3. Phys. паступáльны рух

**translator** [trænsˈleɪtər] n. перакла́дчык, перакла́днік -а m., перакла́дчыца, перакла́дніца f.

**transliterate** [trænsˈlɪtəreɪt] v.t. трансьлітаравáць

**transliteration** [trænsˌlɪtəˈreɪʃən] n. трансьлітарáцыя f.

**translucent** [trænsˈluːsənt] adj. 1. які́ прасьвéчвае. 2. напаўпразры́сты: ***Frosted glass is translucent*** Мáтавае шкло прасьвéчвае

**transmission** [trænsˈmɪʃən] n. 1. перадáча, трансьмíсія (*у аўтамабíлі*) f.. 2. перадавáньне, разнóшваньне n. (*хварóбы*)

**transmit** [trænsˈmɪt] v.t. 1. перадавáць, перасылáць; перанóсіць: ***to transmit the money by special messenger*** перасла́ць грóшы праз спэцыя́льнага пасланцá. 2. Phys. а) правóдзіць (*цяплó*). б) перадавáць (*сíлу, рух у мэханíзьме*). в) прапускáць: ***Glass transmits light*** Шкло прапускáе сьвятлó. 3. перадавáць (*праз рáдыё, тэлевíзію*)

**transmitter** [trænsˈmɪtər] n. 1. перадáтчык -а m.: ***a disease transmitter*** перадáтчык хварóбы. 2. перадáтчык -а m. (*апарáт*)

**transoceanic** [ˌtrænsˌoʊʃiˈænɪk] adj. 1. трансакія́нскі (*параплáў*). 2. заакія́нскі

**transpacific** [ˌtrænspəˈsɪfɪk] adj. транспацыфíчны

**transparency** [trænˈspærənsi] n., pl. **-cies** 1. празры́стасьць f. 2. нéшта празры́стае. 3. транспарáнт -а m.

**transparent** [trænˈspærənt] adj. 1. празры́сты. 2. відавóчны, я́ўны: ***transparent excuses*** відавóчныя адгавóркі

**transpire** [trænˈspaɪr] v.i. 1. адбывáцца, здарáцца. 2. выдзяля́цца, выпарóўвацца (*з арганíзму, лістóў*). 3. Figur. выяўля́цца (*пра таямнíцу*)

**transplant** [ˌtrænsˈplænt] – v.t. 1. перасáджваць (*квéтку, дрэ́ва*). 2. перасяля́ць (*людзéй*). 3. Surg. трансплянтавáць

– n. [ˈtrænsplænt] 1. перасáджваньне n. 2. сáджан|ец -ца m. (*пра дрэ́ва*); флянс -у m. 3. Surg. а) трансплянт -а m. б) трансплянтáцыя f.

**transport** – v.t. [trænsˈpɔːrt] 1. перавóзіць. 2. захапля́ць, ахапля́ць: ***She was transported with joy by the good news*** Яé ахапíла рáдасьць ад дóбрае вéсткі. 3. ссылáць (*у я́касьці пакарáньня*)

– n. [ˈtrænspɔːrt] 1. перавóз -у m., перавóзка f., трáнспарт -у m. 2. перавóжаны тавáр, груз, лю́дзі. 3. захаплéньне n.

**transportable** [trænsˈpɔːrtəbəl] adj. 1. магчы́мы для перавóзу; рухóмы, перавóзны, перанóсны. 2. ссы́льны: ***a transportable offence*** правíннасьць карáная ссы́лкай

**transportation** [ˌtrænspərˈteɪʃən] n. 1. перавóзка f., транспартавáньне n. 2. срóдкі трáнспарту. 3. трáнспартныя выдáткі. 4. ссы́лка f.

**transpose** [trænsˈpoʊz] v.t. 1. перастаўля́ць, перакладáць. 2. транспанавáць

– v.i. выбіва́ць з раўнава́гі; паруша́ць пара́дак; разла́джваць раўнава́гу

**unbalanced** [ʌnˈbælənst] adj. 1. неўраўнава́жаны. 2. не зусі́м нарма́льны

**unbar** [ʌnˈbɑ:r] v.t. **(-rr-)** адсо́ўваць штабу, за́саўку *або́* зава́лу; адмыка́ць

**unbearable** [ʌnˈberəbəl] adj. нясьце́рпны (*пра боль, гарачыню́*)

**unbearably** [ʌnˈberəbli] adv. нясьце́рпна

**unbeaten** [ʌnˈbi:tən] adj. 1. неперамо́жны, неперавы́шаны. 2. непрахо́джаны: ***unbeaten paths*** няхо́джаныя сьце́жкі

**unbecoming** [ˌʌnbɪˈkʌmɪŋ] adj. 1. не да тва́ру, які́ не пасу́е, не падыхо́дзіць (*пра во́пратку*). 2. неадпаве́дны, недарэ́чны, непрысто́йны: ***unbecoming behavior*** непрысто́йныя паво́дзіны

**unbelief** [ʌnbɪˈli:f] n. няве́ра *f.*; няўпэ́ўненасьць *f.*

**unbelievable** [ˌʌnbɪˈli:vəbəl] adj. неверагодны, немагчы́мы

**unbeliever** [ˌʌnbɪˈli:vər] n. ске́птык -а *m.*; няве́руючы -ага *m.*, няве́руючая *f.*, нерэлігі́йны чалаве́к

**unbend** [ʌnˈbend] v., **-bent** or **-bended, bending** 1. выпро́стваць|ь (-ца); выраўно́ўваць. 2. Figur. аслабля́ць напру́жаньне

**unbiased** [ʌnˈbaɪəst] adj. непрадузя́ты, бесстаро́нні, аб'екты́ўны

**unbind** [ʌnˈbaɪnd] v.t. **-bound, -binding** 1. вызваля́ць зь няво́лі: ***to unbind a prisoner*** вы́зваліць вя́зьня. 2. разьвя́зваць, распуска́ць, расслабля́ць

**unbleached** [ʌnˈbli:tʃt] adj. нябе́лены: ***unbleached linen*** нябе́ленае палатно́

**unblemished** [ʌnˈblemɪʃt] adj. чы́сты, беззага́нны: ***an unblemished reputation*** беззага́нная рэпута́цыя

**unborn** [ʌnˈbɔ:rn] adj. ненаро́джаны; бу́дучы: ***unborn generations*** бу́дучыя пакале́ньні

**unbounded** [ʌnˈbaʊndɪd] adj. 1. неабмежава́ны; ве́льмі вялі́кі; бязьме́жны. 2. непадле́глы, непадле́жны

**unbraid** [ʌnˈbreɪd] v.t. расплята́ць

**unbridled** [ʌnˈbraɪdəld] adj. 1. незацугля́ны, незакілза́ны (*пра каня́*). 2. неўтаймава́ны, нястры́мны

**unbroken** [ʌnˈbroʊkən] adj. 1. неразьбі́ты, непаламаны, цэ́лы. 2. безупы́нны, бесьперапы́нны: ***He had eight hours of unbroken sleep*** Ён спаў бесьперапы́нна во́сем гадзі́наў. 3. неаб'е́зджаны, непрыру́чаны: ***an unbroken horse*** непрыру́чаны конь

**unbuckle** [ʌnˈbʌkəl] – v.t. 1. расшпі́льваць. 2. адшпі́льваць; адніма́ць
– v.i. Figur. адпру́жвацца

**unburden** [ʌnˈbɜ:rdən] v.t. 1. аблягча́ць, палягча́ць (*цяжа́р, но́шу*). 2. прызнава́цца да не́чага, што гняце́: ***to unburden one's mind*** вы́казаць набале́лае

**unbutton** [ʌnˈbʌtən] v.t. расшпіля́ць гу́зік, расшпіля́цца

**uncage** [ʌnˈkeɪdʒ] v.t. 1. выпуска́ць з кле́ткі. 2. вызваля́ць, выпуска́ць з астро́гу

**uncalled-for** [ʌnˈkɔ:ldfɔ:r] adj. 1. няпро́шаны. 2. беспатрэ́бны, недарэ́чны

**uncanny** [ʌnˈkæni] adj. 1. дзі́ўны, тае́мны; ву́сьцішны. 2. звышнатура́льны

**unceasing** [ʌnˈsi:sɪŋ] adj. безупы́нны, бесьперапы́нны, несьціха́ны: ***unceasing rain*** бесьперапы́нны дождж

**unceremonious** [ʌnˌserɪˈmoʊniəs] adj. 1. бесцырымо́нны. 2. неафіцы́йны, про́сты

**uncertain** [ʌnˈsɜ:rtən] adj. 1. дакла́дна ня ве́дамы; няпэ́ўны, сумне́ўны: ***The election results were still uncertain*** Вы́нікі вы́бараў былі́ яшчэ́ няпэ́ўныя. 2. няпэ́ўны, няста́лы: ***uncertain weather*** зьме́нлівае надво́р'е. 3. невыра́зны, няя́сны: ***an uncertain shape*** невыра́зная фо́рма

**uncertainly** [ʌnˈsɜ:rtənli] adv. няпэ́ўна: ***He spoke slowly and uncertainly*** Ён гавары́ў паво́лі й няўпэ́ўнена

**uncertainty** [ʌnˈsɜ:rtənti] n., pl. **-ties** 1. няпэ́ўнасьць, невядо́масьць *f.*; сумне́ў -ву *m.* 2. не́шта няпэ́ўнае

**unchain** [ʌnˈtʃeɪn] v.t. спуска́ць з ланцуга́; здыма́ць кайданы́; вызваля́ць

**unchangeable** [ʌnˈtʃeɪndʒ] adj. нязьме́нны, які́ немагчы́ма зьмяні́ць

**unchanged** [ʌnˈtʃeɪndʒd] adj. нязьме́нены, той са́мы

**uncial** [ˈʌnʃəl] n. 1. унцыя́л -а *m.*, унцыя́льная літара, унцыя́льнае пісьмо́. 2. ру́капіс, напі́саны унцыя́льным пісьмо́м

**uncircumcised** [ʌnˈsɜːrkəmsaɪzd] adj. 1. неабрэ́заны. 2. негэбра́йскі

**uncivil** [ʌnˈsɪvəl] adj. 1. грубава́ты; грубія́нскі, нявве́тлівы. 2. нецывілізава́ны

**uncivilized** [ʌnˈsɪvəlaɪzd] adj. нецывілізава́ны

**uncle** [ˈʌŋkəl] n. 1. дзя́дзьк|а -і *m.* 2. Informal дзя́дзьк|а -і *m.*, мужчы́на ў старэ́йшым ве́ку

**unclean** [ʌnˈkliːn] adj. 1. нячы́сты, бру́дны, карэ́лы, запэ́цканы. 2. нячы́сты мара́льна, немара́льны, распу́сны

**unclench** [ʌnˈklentʃ] v.t. расшчамля́ць, расшчапля́ць: ***to unclench one's fists*** расшчамі́ць кулакі́; ***to unclench one's teeth*** расшчапі́ць зу́бы

**uncloak** [ʌnˈkloʊk] v. 1. распрана́ц|ь (-ца), здыма́ць паліто́ *або́* плашч. 2. зрыва́ць (*ма́ску*), выкрыва́ць, выяўля́ць; раскрыва́ць (*няпра́ўду, змо́ву*)

**unclothe** [ʌnˈklɔːθ] v., **-clothed** or **-clad, clothing** 1. разьдзява́ц|ь (-ца) дагала́. 2. выкрыва́ць (*таямні́цу, хлусьню́*)

**uncoil** [ʌnˈkɔɪl] v.t. раскру́чваць, разьвіва́ць (*віткі́*)

**uncomfortable** [ʌnˈkɑːmftəbəl] adj. 1. невыго́дны: ***uncomfortable chair*** невыго́днае крэ́сла. 2. няёмкі. 3. непрые́мны; які́ выклі́кае трыво́гу, неспако́йны

**uncomfortably** [ʌnˈkɑːmftəbli] adv. 1. невыго́дна. 2. няёмка. 3. непрые́мна; трыво́жна

**uncommon** [ʌnˈkɑːmən] adj. 1. рэ́дкі; незвыча́йны. 2. выда́тны, асаблі́вы

**uncommonly** [ʌnˈkɑːmənli] adv. 1. рэ́дка; незвыча́йна. 2. выда́тна; асаблі́ва

**uncommunicative** [ˌʌnkəˈmjuːnəkeɪtɪv] adj. 1. стры́маны, скры́ты. 2. маўклі́вы

**uncompromising** [ʌnˈkɑːmprəmaɪzɪŋ] adj. непадаўкі́, трыва́лы, сто́йкі, пасьлядо́ўны; бескампрамі́сны

**unconcern** [ˌʌnkənˈsɜːrn] n. 1. бестурбо́тнасьць *f.* 2. абыя́кавасьць *f.* 3. незацікаўленасьць *f.*

**unconcerned** [ˌʌnkənˈsɜːrnd] adj. 1. бестурбо́тны; нядба́лы, нядба́йны. 2. незацікаўлены. 3. абыя́кавы

**unconditional** [ˌʌnkənˈdɪʃənəl] adj. безумо́ўны, по́ўны, абсалю́тны: ***unconditional surrender*** по́ўная капітуля́цыя

**unconditioned** [ˌʌnkənˈdɪʃənd] adj. 1. безумо́ўны; абсалю́тны. 2. Psychol. неўсьвядо́млены, мімаво́льны, прыро́джаны, інстынкты́ўны: ***unconditioned reflex*** безумо́ўны рэфле́кс

**unconformity** [ˌʌnkənˈfɔːrməti] n., pl. **-ties** нязго́днасьць, непадпара́дкаваньне но́рмам *або́* пра́вілам

**unconquerable** [ʌŋˈkɑːŋkərəbəl] adj. непераможны

**unconscious** [ʌnˈkɑːnʃəs] – adj. 1. непрыто́мны. 2. несьвядо́мы, няўмы́сны, ненаўмы́сны: ***unconscious neglect*** няўмы́сны недагля́д

– n. ***the unconscious*** падсьвядо́масьць *f.*

**unconsciousness** [ʌnˈkɑːnʃəsnəs] n. непрыто́мнасьць *f.*, абамле́ньне *n.*

**unconstitutional** [ʌnˌkɑːnstəˈtuːʃənəl] adj. неканстытуцы́йны

**unconventional** [ˌʌnkənˈvenʃənəl] adj. 1. незвыча́йны. 2. нештодзённы. 3. не зьвя́заны пра́віламі

**uncork** [ʌnˈkɔːrk] v.t. выця́гваць ко́рак, заты́чку, адкарко́ўваць, адтыка́ць

**uncounted** [ʌnˈkaʊntəd] adj. 1. нязьлі́чаны, непалі́чаны. 2. незьлічо́ны

**uncourteous** [ʌnˈkɜːrtiəs] adj. няве́тлівы, няўва́жны, грубія́нскі

**uncouth** [ʌnˈkuːθ] adj. 1. нязгра́бны; нехлямя́жы; нявы́хаваны, з благі́мі мане́рамі. 2. дзіва́цкі

**uncover** [ʌnˈkʌvər] – v.t. 1. здыма́ць по́крыўку, адкрыва́ць. 2. выяўля́ць, рабі́ць вядо́мым. 3. здыма́ць капялю́ш *або́* ша́пку

– v.i. прыўзьніма́ць капялю́ш *або́* ша́пку

**unction** [ˈʌnkʃən] n. 1. націра́ньне (*ма́сьцю*); пама́заньне але́ем, міра́й (*рэлігі́йны абра́д*): ***extreme unction***

апо́шняе мірапама́заньне пе́рад сьме́рцю. 2. але́й -ю *m.*, мі́ра для пама́заньня; масьць для націра́ньня. 3. Figur. заспакае́ньне, суцяшэ́ньне *n.* 4. Figur. вялі́кая набо́жнасьць

**uncultivated** [ʌnˈkʌltɪveɪtəd] adj. 1. няўро́блены, папа́рны (*пра зямлю́, глебу*). 2. дзі́кі; нявы́хаваны; неразьві́ты (*пра здо́льнасьці*)

**uncurl** [ʌnˈkɜ:rl] – v.t. выпро́стваць не́шта заві́тае
– v.i. разьвіва́цца (*пра заві́тыя валасы́*)

**undecided** [ˌʌndɪˈsaɪdɪd] adj. 1. нявы́рашаны, непастано́ўлены. 2. які́ вага́ецца, які́ ня мо́жа нава́жыцца; нерашу́чы

**undecidedly** [ˌʌndɪˈsaɪdɪdli] adv. нерашу́ча

**undefined** [ˌʌndɪˈfaɪnd] adj. 1. неазна́чаны; нявы́значаны, неўсталява́ны; нерастлума́чаны. 2. няпэ́ўны; невыра́зны, ня́ясны

**undeniable** [ˌʌndɪˈnaɪəbəl] adj. 1. бясспрэ́чны, неаспрэ́чны. 2. безумо́ўна до́бры; дасканалы

**undeniably** [ˌʌndɪˈnaɪəbli] adv. бясспрэ́чна; напэ́ўна, безумо́ўна

**under** [ˈʌndər] – prep. 1. пад: ***The book fell under the table*** Кні́га ўпа́ла пад стол; ***under the ground*** пад зямлёю. 2. ніжэ́й. 3. менш за: ***It will cost under ten dollars*** Гэ́та бу́дзе каштава́ць менш за дзе́сяць даля́раў. 4. пад ула́дай, у часы́: ***under the new rule*** пад но́вай ула́дай. 5. з прычы́ны, дзе́ля *чаго́*: ***under the circumstances*** пры такі́х умо́вах. 6. згодна з *чым*: ***under the law*** згодна з зако́нам. 7. абавя́заны, змушаны: ***to be under obligation*** быць абавя́заным
– adv. ніжэ́й, пад: ***to go under*** а) тану́ць; гі́нуць, зьніка́ць. б) руйнава́цца
– adj. ніжэ́йшы ра́нгам, цано́ю
• ***from under*** з-пад

**underage** [ˌʌndərˈeɪdʒ] adj. непаўнале́тні

**underarm** [ˈʌndərɑ:rm] – adj. 1. які́ знахо́дзіцца пад руко́ю: ***an underarm scar*** шрам *або́* рубе́ц пад руко́ю. 2. падпа́хавы: ***an underarm deodorant*** падпа́хавы дэзадара́нт. 3. Sport пад руку́: ***an underarm throw*** кідо́к пад руку́
– n. па́ха *f.*

**underbred** [ˌʌndərˈbred] adj. 1. бла́га ўзгадава́ны, з дрэ́ннымі мане́рамі. 2. нечыстакро́ўны (*пра каня́, саба́ку*)

**underbrush** [ˈʌndərbrʌʃ] n. падле́с|ак -ку *m.*

**undercarriage** [ˈʌndərˌkærɪdʒ] n. шасі́ *n., ndecl.* (*у аўтамабі́лі, самалёце*)

**underclothes** [ˈʌndərklouz] n., pl. or **underclothing** [ˈʌndərˌklouðɪŋ] n. нацэ́ліва *n.*, бялі́зна *f.*

**undercover** [ˌʌndərˈkʌvər] adj. падпо́льны, сакрэ́тны, та́йны: ***an undercover man for the police*** та́йны аге́нт палі́цыі

**underdeveloped** [ˌʌndərdɪˈveləpt] adj. 1. ненарма́льна разьві́ты, недаразьві́ты: ***an underdeveloped limb*** ненарма́льна разьві́тая кане́чнасьць. 2. адста́лы: ***The underdeveloped countries needed trained personnel*** Эканамі́чна адста́лым краі́нам былі́ патрэ́бныя спэцыялі́сты

**underdone** [ˌʌndərˈdʌn] adj. недапе́чаны, недава́раны; не зусі́м сьпе́чаны *або́* зва́раны

**underestimate** [ˌʌndərˈestɪmeɪt] – v.t. заві́зка ацэ́ньваць, недаацэ́ньваць
– n. [ˌʌndərˈestɪmət] зана́дта ні́зкая ацэ́нка, недаацэ́нка *f.*

**underfoot** [ˌʌndərˈfut] adv. 1. на зямлі́, зьні́зу; на зямлю́. 2. на даро́зе, пад нага́мі: ***Children are often underfoot*** Дзе́ці ча́ста кру́цяцца пад нага́мі

**undergarment** [ˈʌndərˌgɑ:rmənt] n. спо́дняе *n.*, бялі́зна *f.*

**undergo** [ˌʌndərˈgou] v.t., **-went, -gone, -going** 1. перажыва́ць, зазнава́ць: ***The country has undergone great changes*** Краі́на перажыла́ вялі́кія зьме́ны. 2. зно́сіць; цярпе́ць; перано́сіць: ***Soldiers undergo many hardships*** Жаўне́ры перано́сяць шмат цяжкі́х выпрабава́ньняў

**undergone** [ˌʌndərˈgɔ:n] v., *p.p. of* **undergo**

**undergraduate** [ˌʌndərˈɡrædʒuət] n. студэ́нт унівэрсытэ́ту *або́* калéджу (*без ступéні*)

**underground** [ˌʌndərˈɡraʊnd] – adv. 1. пад зямлёю. 2. таéмна, падпо́льна
– adj. 1. падзéмны. 2. таéмны, падпо́льны
– n. [ˈʌndərɡraʊnd] 1. падзямéльле *n.* 2. esp. Brit. падзéмка *f.*, мэтро́ *n.* 3. падпо́льная арганіза́цыя; падпо́льле *n.*

**undergrowth** [ˈʌndərɡroʊθ] n. падлéсак -ку, за́расьнік -у *m.*, кусты́ і маладыя дрэ́вы

**underhanded** [ˌʌndərˈhændɪd] adj. 1. скры́тны; несумлéнны. 2. таéмны, хі́тры: ***underhanded intrigues*** таéмныя інтры́гі

**underlay I** [ˈʌndərleɪ] – v.t. **-laid, -laying** 1. падклада́ць пад *што*. 2. кла́сьці падкла́дку (*пад дыва́н*). 3. падклада́ць (*каб падня́ць або́ падпéрці*)
– n. падкла́дка *f.*

**underlay II** [ˌʌndərˈleɪ] v., *p.t. of* **underlie**

**underlie** [ˌʌndərˈlaɪ] v.i., **-lay, -lain, -lying** 1. ляжа́ць пад нéчым, знахо́дзіцца пад спо́дам. 2. быць спо́дам; утвара́ць фунда́мэнт. 3. Figur. быць асно́вай, ляжа́ць у асно́ве

**underline** [ˌʌndərˈlaɪn] – v.t. 1. падкрэ́сьліваць; падчы́ркваць. 2. ста́віць на́ціск, падкрэ́сьліваць (*у гу́тарцы*)
– n. лі́нія, ры́ска *f.*; падкрэ́сьленьне *n.*

**underlip** [ˈʌndərlɪp] n. ні́жняя губа́

**underlying** [ˌʌndərˈlaɪɪŋ] – adv. 1. які́ ляжы́ць пад спо́дам *чаго́*, пад *чым*. 2. асно́ўны; істо́тны. 3. які́ ня кі́даецца ў во́чы; адра́зу незаўва́жны
– v., *pres. p. of* **underlie**

**undermine** [ˌʌndərˈmaɪn] v.t. 1. рабі́ць падко́п, падзéмны ход: ***to undermine the wall*** зрабі́ць падко́п пад сьцяно́ю. 2. падмыва́ць, размыва́ць зьні́зу: ***The cliff was undermined by the waves*** Скала́ была́ падмы́тая хва́лямі. 3. псава́ць, падрыва́ць: ***to undermine one's health*** падарва́ць сваё здаро́ўе; ***to undermine a man's reputation*** сапсава́ць чалавéку рэпута́цыю

**underneath** [ˌʌndərˈniːθ] – prep. пад: ***to sit underneath a tree*** сядзéць пад дрэ́вам; ***a cellar underneath a house*** склеп пад до́мам
– adv. 1. до́ле, уні́зе. 2. пад спод, пады́спад (*куды́?*); пады́спадам (*дзе?*)
– adj. спо́дні
– n. спод -у *m.* (*ніжэ́йшая ча́стка або́ павéрхня*)

**undernourish** [ˌʌndərˈnɜːrɪʃ] v.t. недакóрмліваць

**undernourished** [ˌʌndərˈnɜːrɪʃt] adj. недако́рмлены, недастатко́ва нако́рмлены

**undernourishment** [ˌʌndərˈnɜːrɪʃmənt] n. недако́рмліваньне *n.*, недако́рм -у *m.*; недастатко́вае харчава́ньне, недаяда́ньне *n.*

**underpants** [ˈʌndərpænts] n., pl. мужчы́нскія спо́днікі, кальсо́ны *pl.*

**underpass** [ˈʌndərpæs] n. пераéзд -а (*пад палатно́м чыгу́нкі, аўтастра́дай*); тунэ́ль -я *m.*; падзéмны перахо́д

**underpay** [ˌʌndərˈpeɪ] v., **-paid, -paying** зама́ла плаці́ць (*за пра́цу*)

**underprivileged** [ˌʌndərˈprɪvəlɪdʒd] adj. 1. які́ карыста́ецца мéншымі права́мі, абмежава́ны ў право́х. 2. бéдны, незамо́жны.

**underproduction** [ˌʌndərprəˈdʌkʃən] n. недавытво́рчасьць *f.*

**underrate** [ˌʌndərˈreɪt] v.t., **-rated, -rating** недаацэ́ньваць; зані́зка цані́ць

**undersea** [ˌʌndərˈsiː] – adj. падво́дны ***an undersea boat*** падво́дная ло́дка
– adv. *гл.* **underseas**

**underseas** [ˌʌndərˈsiːz] adv. пад вадо́ю, пад ваду́: ***Submarines go underseas*** падво́дныя ло́дкі апуска́юцца пад ваду́

**undersecretary** [ˌʌndərˈsekrəteri] n., pl. **-ries** 1. намéсьнік *або́* памо́чнік мі́ністра. 2. памо́чнік сакратара́

**undersell** [ˌʌndərˈsel] v., **-sold, -selling** 1. прадава́ць таньнéй за і́ншых. 2. прадава́ць са стра́тай

**undershirt** [ˈʌndərʃɜːrt] n. спо́дняя кашу́ля *або́* саро́чка

**undersign** [ˌʌndərˈsaɪn] v.t. падпісваць (*дакумэнт, ліст*)

**undersized** [ˌʌndərˈsaɪzd] adj. менш, чым звычайнага памеру; маларослы, нізкарослы

**underskirt** [ˈʌndərskɜːrt] n. ніжняя спадніца

**understand** [ˌʌndərˈstænd] v., **-stood, -standing** 1. разумець; разьбірацlь (ца): ***People listen to him, but often do not understand*** Людзі слухаюць яго, але часта не разумеюць. 2. ведаць: ***A good teacher should understand children*** Добры настаўнік павінен ведаць дзяцей. 3. быць паінфармаваным, ведаць: ***I understand that he is leaving town*** На колькі мне ведама, ён выяжджае з гораду. 4. падазраваць, думаць: ***I understood so*** Я гэтак і думаў
– v.i. знацца, разьбірацца: ***to understand horses*** знацца на конях, разьбірацца ў конях
• ***it is understood*** разумеецца
• ***understand each other*** разумець адзін аднаго, разумецца; пагаджацца

**understandable** [ˌʌndərˈstændəbəl] adj. зразумелы

**understanding** [ˌʌndərˈstændɪŋ] – n. 1. а) разуменьне. б) веданьне *n.* 2. здольнасьць да навукі, кемлівасьць *f.*; інтэлігенцыя *f.* 3. узаемнае разуменьне: ***True friendship is based on understanding*** Сапраўдная сяброўства базуецца на ўзаемным разуменьні. 4. узаемная дамоўленасьць
– adj. чулы, чульлівы

**understate** [ˌʌndərˈsteɪt] v.t. 1. не дагаворваць да канца. 2. зьмяншаць

**understood** [ˌʌndərˈstʊd] v., *p.t. and p.p. of* **understand**

**understudy** [ˈʌndərˌstʌdi] – n. дублёр -а *m.*
– v.t. дубляваць

**undertake** [ˌʌndərˈteɪk] – v.t. 1. пачынаць, распачынаць. 2. старацца, намагацца: ***to undertake the impossible*** брацца за немагчымае. 3. брацца: ***She undertook the feeding of my dogs*** Яна ўзялася карміць маіх сабакаў
– v.i. распачынаць, выбірацца: ***to undertake a journey*** выбрацца ў падарожжа

**undertaker** [ˈʌndərteɪkər] n. 1. гаспадар пахавальнага бюро. 2. [ˌʌndərˈteɪkər] прадпрымальнік -а, прадпрыемlец -ца, прадпрыемцlа -ы *m.*

**undertaking** [ˌʌndərˈteɪkɪŋ] n. 1. пачын -у *m.*, пачынаньне, заданьне *n.*; прадпрыемства *n.* 2. абавязаньне *n.*; гарантыя *f.* 3. [ˈʌndərteɪkɪŋ] пахавальнае бюро

**undertone** [ˈʌndərtoʊn] n. 1. нізкі *або* вельмі ціхі тон: ***to talk in undertones*** гаварыць нягучна, напаўголаса. 2. адценьне *n.*, паўтон -у *m.* (*колеру*): ***an undertone of brown*** рудое адценьне. 3. адценьне *n.*: ***an undertone of sadness in her gaiety*** адценьне смутку ў ейнай весялосьці

**undertook** [ˌʌndərˈtʊk] v., *p.t. of* **undertake**

**undertow** [ˈʌndərtoʊ] n. 1. моцная падводная плынь. 2. адліў хвалі

**undervaluation** [ʌndərˌvæljuːˈeɪʃən] n. 1. занадта нізкая ацэнка. 2. недаацэнка *f.*

**undervalue** [ˌʌndərˈvæljuː] v.t. 1. ацэньваць ніжэй вартасьці. 2. недаацэньваць

**underwater** [ˌʌndərˈwɔːtər] adj. падводны

**underwear** [ˈʌndərwer] n. нацеліва *n.*, бялізна *f.*, сподняе *n.*

**underweight** [ˌʌndərˈweɪt] – adj. які важыць замала, недаважаны
– n. недавага *f.*

**underwent** [ˌʌndərˈwent] v., *p.t. of* **undergo**

**underwood** [ˈʌndərwʊd] n. падлесlак -ку *m.*

**underworld** [ˈʌndərwɜːrld] n. 1. падоньне грамадзтва, крымінальны, злачынны сьвет. 2. Myth. падземнае царства

**underwrite** [ˌʌndərˈraɪt] v., **wrote, -written, -writing** 1. страхаваць (*маёмасьць, багаж*). 2. прымаць у страхоўку (*вадаплавы, тавары*). 3. падпісвацlь (-ца) (*пад дакумэнтам*). 4. абавязацца фінансаваць што-н.

**undeserved** [ˌʌndɪˈzɜ:rvd] adj. незаслýжаны

**undeservedly** [ˌʌndɪˈzɜ:rvədli] adv. незаслýжана

**undesirable** [ˌʌndɪˈzaɪərəbəl] – adj. непажадáны
– n. непажадáная асóба

**undeveloped** [ˌʌndɪˈveləpt] adj. 1. неразьвíты, нястáлы. 2. нераспрацавáны (*пра шáхту*). 3. незабудавáны (*пра зямлю́*)

**undigested** [ˌʌndaɪˈdʒestɪd] adj. 1. неператрáўлены (*пра éжу*). 2. незасвóены (*матэрыя́л*). 3. недастаткóва абдýманы; непасьлядóўны. 4. непрая́ўлены (*пра фатастýжку*)

**undiluted** [ˌʌndɪˈlu:təd] adj. неразьвéдзены, чы́сты

**undisputed** [ˌʌndɪsˈpju:təd] adj. бясспрэ́чны, бессумнéўны

**undisturbed** [ˌʌndɪsˈtɜ:rbd] adj. непарýшаны, спакóйны, зацíшны, цíхі; бестурбóтны

**undo** [ʌnˈdu:] v.t. **-did, -done, -doing** 1. разьвя́зваць, расшпíльваць: ***to undo the package*** раскры́ць пакýнак. 2. адрабля́ць: ***What's done cannot be undone*** Што зрабíлася, назáд не адрóбіш. 3. руйнавáць; псавáць, нíшчыць

**undone** [ʌnˈdʌn] adj. 1. нязрóблены; няскóнчаны. 2. разбýраны; зруйнавáны

**undoubtedly** [ʌnˈdaʊtədli] adv. бясспрэ́чна; напэ́ўна

**undress** [ʌnˈdres] – v.i. 1. распранáцца; разьдзявáцца. 2. разьдзявáцца дагалá
– v.t. 1. здымáць вóпратку, распранáцца. 2. здымáць аздóбы. 3. здымáць перавя́зку з рáны
– n. 1. штодзённая вóпратка. 2. галізнá *f.*

**undue** [ʌnˈdu:] adj. 1. які́ не пасýе; неадпавéдны, неналéжны: ***undue influence*** непажадáны ўплы́ў. 2. беспадстáўны, неправамéрны. 3. празьмéрны

**undulate** [ˈʌndʒəleɪt] – v.i. 1. хвалявáцца (*пра вадý, мóра*). 2. быць хвáлістым: ***undulating hair*** кучарáвыя валасы́
– v.t. выклікáць хвалявáньне (*вады́*); рабíць хвáлістым
– adj. [ˈʌndʒələt] хвáлісты (*пра валасы́*); кучарáвы

**undulation** [ˌʌndʒəˈleɪʃən] n. 1. узгóркавасьць *f.* 2. хвáлістасьць *f.* (*вады́, нíвы, мясцóвасьці*). 3. Phys. хвáлепадóбны рух (*гýку абó сьвятлá*) вібрáцыя *f.*, рытмíчнае хістáньне; хвáля *f.*

**undulatory** [ˈʌndʒələtɔ:ri] adj. хвáлісты; узгóркавы

**unduly** [ˈʌndu:li] adv. 1. неадпавéдна. 2. залíшне, празьмéрна: ***unduly optimistic*** празьмéрна аптымісты́чны

**undying** [ʌnˈdaɪɪŋ] adj. неўмірýчы, несьмярóтны; вéчны

**unearned** [ʌnˈɜ:rnd] adj. 1. незарóблены прáцай. 2. незаслýжаны
• ***unearned income*** непрацóўны дахóд, дахóд з уклáдаў грóшай

**unearth** [ʌnˈɜ:rθ] v.t. 1. раскóпваць, адкапáць: ***to unearth a buried city*** раскапáць засы́паны гóрад. 2. Figur. раскрывáць, давóдзіць да вéдама: ***to unearth a plot*** раскры́ць змóву

**unearthly** [ʌnˈɜ:rθli] adj. 1. незямны́; звышнатурáльны. 2. дзíўны, незвычáйны

**uneasiness** [ʌnˈi:zɪnəs] n. 1. непакóй -ю *m.*; устрывóжанасьць, трывóга *f.* 2. няёмкасьць, зьбянтэ́жанасьць, сарамлíвасьць *f.*

**uneasy** [ʌnˈi:zi] adj. 1. неспакóйны; устурбавáны, устрывóжаны. 2. нявы́гадны, нязрýчны. 3. зьбянтэ́жаны; сарамлíвы. 4. дзíўны; нехлямя́жы

**uneducated** [ʌnˈedʒəkeɪtəd] adj. неадукавáны; без асьвéты

**unemployed** [ˌʌnɪmˈplɔɪd] – adj. 1. беспрацóўны. 2. нявы́карыстаны: ***an unemployed skill*** нескарыстáнае ўмéльства
– n.: ***the unemployed*** беспрацóўныя

**unemployment** [ˌʌnɪmˈplɔɪmənt] n. 1. беспрацóўе *n.* 2. лік беспрацóўных: ***The unemployment figure is high*** Лік беспрацóўных высóкі

**unemployment insurance** страхавáньне на вы́падак беспрацóўя

**unequal** [ʌnˈi:kwəl] adj. 1. няро́ўны (*ко́лькасьцю, паме́рам, лі́кам*). 2. нядо́бра падабра́ны. 3. несправядлі́вы, няро́ўны: ***an unequal contest*** няро́ўнае спабо́рніцтва. 4. недастатко́вы; неадпаве́дны. 5. нерэгуля́рны

**unequaled** or **unequalled** [ʌnˈi:kwəld] adj. недася́жны, непараўна́льны

**unessential** [ˌʌnɪˈsenʃəl] – adj. неісто́тны, нява́жны
– n. не́шта нява́жнае

**uneven** [ʌnˈi:vən] adj. 1. няро́ўны (*пра паве́рхню*); няпро́сты, крывы́ (*пра лі́нію*). 2. няро́ўны, нерэгуля́рны, неўраўнава́жаны: ***uneven temper*** неўраўнава́жаны хара́ктар. 3. няцо́тны (*пра лік*): ***The numbers 27 and 9 are uneven numbers*** Лі́кі 27 і 9 — няцо́тныя лі́кі

**uneventful** [ˌʌnɪˈventfəl] adj. небага́ты падзе́ямі

**unexpected** [ˌʌnɪksˈpektɪd] adj. неспадзява́ны, нечака́ны

**unexpectedly** [ˌʌnɪksˈpektɪdli] adv. неспадзява́на, нечака́на, зьняна́цку, зьнячэ́ўку, рапто́ўна

**unfailing** [ʌnˈfeɪlɪŋ] adj. 1. надзе́йны, пэ́ўны; нясто́мны. 2. невычарпа́льны, невычэ́рпны: ***unfailing supply of water*** невычарпа́льныя запа́сы вады́

**unfair** [ʌnˈfer] adj. несумле́нны; несправядлі́вы; прадузя́ты: ***unfair player*** несумле́нны гуле́ц

**unfairness** [ʌnˈfernəs] n. несправядлі́васьць, несумле́ннасьць; прадузя́тасьць *f.*

**unfaithful** [ʌnˈfaɪθfəl] adj. 1. няве́рны; верало́мны. 2. недакла́дны, нязго́дны з арыгіна́лам: ***an unfaithful transcript*** ко́пія, нязго́дная з арыгіна́лам

**unfamiliar** [ˌʌnfəˈmɪljər] adj. 1. незнаёмы; нязвы́чны, нязвы́клы; чужы́: ***That face is unfamiliar to me*** Гэ́ны твар мне незнаёмы. 2. няве́дамы; неазнаёмлены: ***to be unfamiliar with*** быць неазнаёмленым з *чым*, ня ве́даць *чаго́*

**unfavorable**, Brit. **unfavourable** [ʌnˈfeɪvərəbəl] adj. непрыхі́льны, неспрыя́льны; непрые́мны

**unfeeling** [ʌnˈfi:lɪŋ] adj. 1. нячу́лы, неспага́длівы; зь цьвёрдым сэ́рцам. 2. няздо́льны адчува́ць

**unfit** [ʌnˈfɪt] – adj. 1. непрыда́тны, неадпаве́дны: ***a house unfit to live in*** дом, непрыда́тны для жыцьця́. 2. нязда́тны, няздо́льны: ***He is unfit for work*** Ён няздо́льны, ня мо́жа працава́ць. 3. непрытарнава́ны, недапасава́ны
– v.t. рабі́ць непрыда́тным, псава́ць

**unfledged** [ʌnˈfledʒd] adj. 1. бясьпёры, няздо́льны лётаць (*пра мало́е птуша́ня*). 2. Figur. неапе́раны, неразьві́ты; недасьпе́лы

**unfold** [ʌnˈfoʊld] – v.t. 1. а) разго́ртваць: ***to unfold a napkin*** разгарну́ць сурвэ́тку. б) распуска́ць, раскрыва́ць (*парасо́н*). 2. разго́ртваць, выпро́стваць; распасьціра́ць, раскрыва́ць (*кры́лы, ру́кі*). 3. прадстаўля́ць, пака́зваць; тлума́чыць: ***to unfold the country's past*** прадста́віць міну́лае краі́ны
– v.i. 1. распуска́цца (*пра пупы́шкі*); разьвіва́цца. 2. разго́ртвацца, раскрыва́цца (*пра парасо́н*)

**unforced** [ʌnˈfɔ:rst] adj. 1. непрыму́шаны, нязму́шаны; ахво́чы. 2. натура́льны; адво́льны, спанта́нны

**unforeseen** [ˌʌnfɔ:rˈsi:n] adj. непрадба́чаны

**unforgettable** [ˌʌnfərˈgetəbəl] adj. незабы́ўны

**unfortunate** [ʌnˈfɔ:rtʃənət] – adj. 1. няшча́сны, бяздо́льны. 2. неадпаве́дны; няўда́чны
– n. гаро́тнік, бяда́к -а *m.*

**unfortunately** [ʌnˈfɔ:rtʃənətli] adv. на жа́ль; на няшча́сьце

**unfounded** [ʌnˈfaʊndɪd] adj. неабгрунтава́ны; беспадста́ўны: ***an unfounded complaint*** неабгрунтава́нае нарака́ньне

**unfrequented** [ˌʌnfrɪˈkwentəd] adj. рэ́дка наве́дваны; рэ́дка ўжыва́ны, глухі́ (*пра даро́гу*)

**unfriendly** [ʌnˈfrendli] adj. 1. няве́тлівы; непрыя́зны. 2. непрыхі́льны

**ungovernable** [ʌnˈgʌvərnəbəl] adj. неўтаймоўны, непаслухмяны (*пра дзяцей*); нястрымны, няўпынны; шалёны: ***an ungovernable temper*** шалёная злосьць

**ungracious** [ʌnˈgreɪʃəs] adj. 1. нявЕтлівы; грубіянскі. 2. непрыемны; нязносны

**ungrateful** [ʌnˈgreɪtfəl] adj. 1. няўдзячны. 2. непрыемны; нязносны

**ungrounded** [ʌnˈgraʊndɪd] adj. беспадстаўны, беспрычынны; неабгрунтаваны

**unguarded** [ʌnˈgɑ:rdɪd] adj. 1. не ахоўваны, без ахоўы. 2. неабачлівы; неасьцярожны: ***In an unguarded moment, she gave away the secret*** У хвіліну неабачлівасьці яна выдала таямніцу

**unguardedly** [ʌnˈgɑ:rdɪdli] adv. неабачліва; неасьцярожна

**ungula** [ˈʌngjələ] n., pl. **-lae** 1. капыт -á *m.* 2. кіпцецъ, ногіаць -ця *m.*; капцюр, кіпцюр -á *m.* 3. Geom. зрэзаны конус *або* цыліндр

**ungulate** [ʌnˈgjəleɪt] – adj. капытны; які мае капыты
– n. капытная жывёліна

**unhappily** [ʌnˈhæpɪli] adv. 1. сумна, журботна. 2. нешчасьліва; неадпаведна; на жаль

**unhappy** [ʌnˈhæpi] adj. 1. засмучаны, маркотны, журботны. 2. нешчасьлівы. 3. неадпаведны; няўдачны

**unharness** [ʌnˈhɑ:rnəs] v.t. 1. зьняць вупраж *або* збрую: ***to unharness the horse*** зьняць збрую з каня. 2. здымаць зброю (*з рыцара, ваякі*)

**unhealthful** [ʌnˈhelθfəl] adj. шкодны для здароўя, нездаровы

**unhealthiness** [ʌnˈhelθɪnəs] n. 1. недамаганьне *n.*, нездароўе *n.*; хвароба *f.* 2. нездаровыя ўмовы

**unhealthy** [ʌnˈhelθi] adj. 1. нездаровы: ***un unhealthy child*** нездаровае дзіця; ***an unhealthy paleness*** нездаровая бледнасьць. 2. шкодны для здароўя; нездаровы: ***an unhealthy climate*** нездаровы клімат. 3. шкодны маральна

**unheard** [ʌnˈhɜ:rd] adj. 1. нячутны, вельмі ціхі. 2. бяз слуханьня, разгляду справы: ***to condemn a person unheard*** прызнаць вінаватым кагось без разгляду справы. 3. нечуваны; нявЕдамы

**unheard-of** [ʌnˈhɜ:rdʌv] adj. 1. нечуваны; зусім нявЕдамы. 2. бяспрыкладны; небывалы

**unheeded** [ʌnˈhi:dɪd] adj. незаўважаны; ня ўзяты пад увагу

**unhesitating** [ʌnˈhezɪteɪtɪŋ] adj. рашучы, хуткі, гатовы (*рабіць, дзеяць*)

**unhinge** [ʌnˈhɪndʒ] v.i. 1. здымаць дзьверы з завесаў. 2. адчапляць; разлучаць

**unhitch** [ʌnˈhɪtʃ] v. адвязваць, адчапляць

**unhook** [ʌnˈhʊk] – v.i. 1. здымаць з крука. 2. расшпіляць кручкі
– v.i. расшпіляцца

**unhuman** [ʌnˈhju:mən] adj. 1. нечалавечы, нялюдзкі (*напр. голас, выгляд*) 2. брутальны, люты; нечалавечны негуманны. 3. надчалавечы

**unhurriedly** [ʌnˈhɜ:rɪdli] adv. паволі, няспешна

**unhygienic** [ʌnˌhaɪdʒiˈenɪk] adj. нездаровы, негігіенічны; антысанітарны

**Uniate** [ˈju:niət] – n. вуніят, уніят -а *m.*, вуніятка, уніятка *f.*
– adj. вуніяцкі, уніяцкі

**unicameral** [ˌju:nɪˈkæmərəl] adj. аднапалатны: ***unicameral legislature*** аднапалатная заканадаўчая ўстанова

**unicellular** [ˌju:nɪˈseljələr] adj. аднаклетачны: ***The amoeba is a unicellular animal*** Амёба ёсьць аднаклетачнай жывёлінай

**unicorn** [ˈju:nɪkɔ:rn] adj. аднарог -а *m.*

**unification** [ˌju:nɪfɪˈkeɪʃən] n. 1. аб'яднаньне *n.* 2. зьвядзеньне да адзінае формы, сыстэмы; уніфікацыя *f.*

**uniform** [ˈju:nɪfɔ:rm] – adj. 1. аднастайны, нязьменлівы, нязьменны: ***The earth turns around at a uniform rate*** Зямля круціцца навокал зь нязьменнай хуткасьцяй. 2. аднолькавы: ***All***

***the bricks are of a uniform size*** Усé цаглíны аднóлькавага памéру. 3. рэгуля́рны; рóўны: ***a uniform pace*** рóўны крок
– n. уніфóрма, фóрма *f.* (*шкóльная, вайскóвая*)

**uniformity** [ˌju:nɪˈfɔ:rməti] n., pl. **-ties** аднóлькавасьць, аднарóднасьць *f.*

**unify** [ˈju:nɪfaɪ] v., **-fied, -fying** гуртавáцца; лучы́ць, злучáць

**unilateral** [ˌju:nɪˈlætərəl] adj. аднабакóвы

**unilingual** [ˌju:nɪˈliŋgwəl] adj. аднамóўны

**unimaginable** [ˌʌnɪˈmædʒɪnəbəl] adj. няўя́ўны, неўяўля́льны

**unimpeachable** [ˌʌnɪmˈpi:tʃəbəl] adj. беззагáнны; несумнéўны, бясспрэ́чны: ***unimpeachable reputation*** беззагáнная рэпутáцыя

**unimportant** [ˌʌnɪmˈpɔ:rtənt] adj. няважны; нязнáчны; малавáжны

**uninhabited** [ˌʌnɪnˈhæbɪtɪd] adj. 1. незасéлены, бязьлю́дны (*абшáр*). 2. нежылы́, пусты́ (*дом*)

**uninspired** [ˌʌnɪnˈspaɪrd] adj. 1. ненатхнёны, без натхнéньня. 2. банáльны

**uninsured** [ˌʌnɪnˈʃʊrd] adj. незастрахавáны

**unintelligible** [ˌʌnɪnˈtelɪdʒəbəl] adj. незразумéлы; неразбóрлівы

**unintelligibly** [ˌʌnɪnˈtelɪdʒəbli] adv. невырáзна, неразбóрліва: ***to speak unintelligibly*** неразбóрліва гавары́ць, мы́каць

**unintentional** [ˌʌnɪnˈtenʃənəl] adj. міжвóльны; ненаўмы́сны

**uninterested** [ʌnˈɪntrəstɪd] adj. незацікáўлены; няўвáжны, няўвáжлівы: ***to be uninterested in politics*** не цікáвіцца палíтыкай

**uninteresting** [ʌnˈɪntrəstɪŋ] adj. нецікáвы

**uninterrupted** [ʌnˌɪntəˈrʌptɪd] adj. бесьперапы́нны; несьціхáны

**union** [ˈju:njən] – n. 1. задзінóчаньне *n.*: ***The United States was formed by the union of thirteen former British colonies*** Злýчаныя Штáты былí ствóраныя праз задзінóчаньне трынаццацёх былы́х брытáнскіх калёніяў. 2. ýнія: ***the Union of the Grand Duchy of Lithuania and Poland*** ýнія Вялíкага Кня́ства Літóўскага з Пóльшчай. 3. зьвяз -у *m.*, саю́з -у *m.*: а) ***trade union*** прафэсíйны зьвяз, прафзьвя́з, прафсаю́з -у *m.* б) ***Union of Soviet Socialist Republics (USSR)*** Саю́з Савéцкіх Сацыялісты́чных Рэспýблікаў. 4. згóда *f.*; адзíнства *n.*: ***in perfect union*** у пóўнай згóдзе. 5. жанíмства *n.* 6. нíпэлі -я *m.* (*у прылáдах і мэханíзмах*); мýфта *f.* (*для трýбаў*)
– adj. саю́зны, прафсаю́зны

**Union Jack** дзяржáўны сьцяг Вялíкай Брытáніі

**unique** [juˈni:k] adj. 1. непаўтóрны, адзíны ў сваíм рóдзе, унікáльны. 2. Informal рэ́дкі; незвычáйны

**unison** [ju:ˈnɪsən] n. 1. унісóн -у *m.*: ***in unison*** ува ўнісóн: а) адначáсна й злáджана: ***to act in unison*** дзéяць у згóдзе. б) сугýчна (*сьпявáць, гучáць*). 2. згóда *f.*

**unit** [ju:ˈnɪt] n. 1. адзíнка *f.* (*і пра асóбу*); штýка *f.* (*пра рэч*). 2. адзíнка вымярэ́ньня: ***A meter is a unit of length*** Мэ́тар — адзíнка даўжыні. 3. Math. адзíнка — наймéншы цэ́лы лік. 4. вайскóвая чáстка; полк палкá *m.*

**Unitarian** [ˌju:nɪˈteriən] – n. унітарыя́нін -а *m.*
– adj. унітарыя́нскі

**unitary** [ju:ˈnəteri] adj. 1. адзíнкавы. 2. якí адзначáецца адзíнствам *абó* імкнéцца да адзíнства: ***a unitary policy of government*** палíтыка ўрáду, якáя вядзé да адзíнства (згóды)

**unite** [juˈnaɪt] – v.t. 1. лучы́ць, злучáць; мацавáць. 2. задзінóчваць, спалучáць: ***Several firms were united to form one company*** Нéкалькі фíрмаў злучы́лася, каб утвары́ць аднý кампáнію. 3. лучы́ць, яднáць: ***to unite a man and a woman in marriage*** злучы́ць мужчы́ну й жанчы́ну шлю́бам
– v.i. гуртавáцца; лучы́цца, злучáцца; задзінóчвацца, яднáцца, аб'яднóўвацца

**united** [juˈnaɪtɪd] adj. 1. задзіно́чаны, злу́чаны ў адно́. 2. супо́льны: ***united actions*** супо́льныя дзе́яньні. 3. дру́жны, зьвя́заны: ***united family*** дру́жная сям'я́

**United Kingdom (U.K.)** Задзіно́чанае Карале́ўства (*Англіі, Шатля́ндыі, Валіі й Паўно́чнай Ірля́ндыі*)

**United Nations (U.N.** or **UN)** Аб'е́днаныя На́цыі

**United States of America** Злу́чаныя Шта́ты Амэ́рыкі

**unity** [ˈju:nəti] n., pl. **-ties** 1. адзі́нства *n.* 2. згуртава́насьць *f.* 3. згóда *f.*: ***to live together in unity*** жыць у згóдзе. 4. Math. адзі́нка *f.*

• ***the unities*** пра́віла адзі́нства ча́су, месца й дзе́яньня (*у клясы́чнай дра́ме*)

**univalence** [ˌju:nɪˈvæləns] n. аднава́ртаснасьць, аднавале́нтнасьць *f.*

**univalent** [ˌju:nɪˈvælənt] adj. аднава́ртасны, аднавале́нтны

**universal** [ˌju:nɪˈvɜ:rsəl] adj. 1. усеагу́льны (*пра навуча́ньне, вы́барчае пра́ва*). 2. сусьве́тны. 3. агу́льны. 4. унівэрса́льны, усеабды́мны; для разнаста́йнага выкарыста́ньня. 5. шырокася́жны, шыро́кі: ***universal knowledge*** шыро́кія ве́ды

**universe** [ˈju:nɪvɜ:rs] n. 1. сусьве́т -у *m.* 2. сьвет -у *m.*; чалаве́цтва *n.* 3. галіна́ *f.*: ***the universe of chemistry*** галіна́ хі́міі

**university** [ˌju:nɪˈvɜ:rsəti] – n., pl. **-ties** унівэрсытэ́т -у *m.*

– adj. унівэрсытэ́цкі

**unjust** [ʌnˈdʒʌst] adj. несправядлі́вы

**unkempt** [ʌnˈkempt] adj. 1. непрычаса́ны. 2. апу́шчаны, недагле́джаны; неаха́йны

**unkind** [ʌnˈkaɪnd] adj. няве́тлы; нядобразычлі́вы

**unkindly** [ʌnˈkaɪndli] – adj. злы, ліхі́; неспага́длівы; неспрыя́льны

– adv. няве́тла, рэ́зка; гру́ба

**unknown** [ʌnˈnoʊn] – adj. няве́дамы, невядо́мы; незнаёмы, чужы́, недасьле́даваны: ***an unknown country*** няве́дамы край

– n. 1. невядо́м|ы -ага *m.*, невядо́мая *f.* (*пра асо́бу*); невядо́мае *n.* (*пра рэч*). 2. Math. невядо́мае *n.*

**unlace** [ʌnˈleɪs] v.t. расшнуро́ўваць

**unlawful** [ʌnˈlɔ:fəl] adj. 1. беззако́нны, які парушáе зако́н; забаро́нены зако́нам; нелега́льны. 2. Archaic пазашлю́бны (*пра дзіця́*)

**unlawfully** [ʌnˈlɔ:fəli] adv. 1. нелега́льна. 2. пазашлю́бна

**unlearn** [ʌnˈlɜ:rn] v.t. 1. адвуча́ць (*ад не́йкіх звы́чак, схі́льнасьцяў*). 2. забыва́цца (*што ве́даў*)

**unleavened** [ʌnˈlevənd] adj. без заква́скі, прэ́сны: ***unleavened bread*** прасьві́ра, маца́

**unless** [ənˈles] conj. хіба́ то́лькі; хіба́ што; калі́ не: ***We shall go, unless it rains*** Мы по́йдзем, калі́ ня бу́дзе дажджу́

**unlicenced** [ʌnˈlaɪsənst] adj. 1. які́ ня ма́е дазво́лу. 2. зро́блены без дазво́лу; неўпаўнава́жаны

**unlike** [ʌnˈlaɪk] – adj. 1. непадо́бны; ро́зны. 2. ро́зны паме́рам *або́* ко́лькасьцю, неадно́лькавы, няро́ўны: ***unlike weights*** неадно́лькавыя ва́гі

– prep. ня так, як: ***act unlike others*** трыма́цца ня так, як і́ншыя

**unlikelyhood** [ʌnˈlaɪklɪhʊd] n. непраўдападо́бнасьць *f.*

**unlikely** [ʌnˈlaɪkli] adj. 1. непраўдападо́бны, малапраўдападо́бны: ***He is unlikely to win*** Непраўдападо́бна, што ён вы́йграе. 2. ненадзе́йны, маланадзе́йны: ***an unlikely undertaking*** ненадзе́йнае пачына́ньне

**unlimited** [ʌnˈlɪmɪtɪd] adj. 1. бязьме́жны, бяскра́йні. 2. неабмежава́ны

**unload** [ʌnˈloʊd] v.t. 1. выгружа́ць, выма́ць, выно́сіць груз. 2. разгружа́ць, разладо́ўваць (*ваго́н, карабе́ль*). 3. збыва́ць, вызваля́цца (*ад цяжко́га, непрые́мнага*). 4. разраджа́ць (*стрэ́льбу, гарма́ту*)

**unlock** [ʌnˈlɑ:k] v.t. 1. адмыка́ць (*замо́к*). 2. раскрыва́ць; выяўля́ць

**unloved** [ʌnˈlʌvd] adj. нялю́бl|ы, некаха́н|ы -ага *m.*; нялю́бая, некаха́ная *f.*

**unlovely** [ʌnˈlʌvli] adj. непрые́мны для во́ка; непрыго́жы, непрыва́бны; непрые́мны

**unlucky** [ʌnˈlʌki] adj. 1. нешчасьлі́вы, няўда́чны: ***unlucky times*** час вялі́кіх няго́даў, ліхале́цьце. 2. няшча́сны, бязьдо́льны: ***unlucky wreck*** бязьдо́льнік, няшча́сьнік

**unmanly** [ʌnˈmænli] adj. 1. немужчы́нскі; кво́лы (*і хара́ктарам*); баязьлі́вы. 2. гане́бны; які́ прыніжа́е го́нар

**unmannerly** [ʌnˈmænərli] adj. нявы́хаваны, з благі́мі мане́рамі; няве́тлівы

**unmarried** [ʌnˈmærɪd] adj. 1. бясшлю́бны, бяз шлю́бу, па-за шлю́бам (*жыцьцё*). 2. нежана́ты (*пра мужчы́ну*), неза́мужняя (*пра жанчы́ну*)

**unmask** [ʌnˈmæsk] v.t. 1. здыма́ць ма́ску: ***The guests unmasked at midnight*** Апо́ўначы го́сьці паздыма́лі ма́скі. 2. Figur. зрыва́ць ма́ску; выкрыва́ць запра́ўдны хара́ктар: ***to unmask a hypocrite*** вы́крыць крывадýшніка. 3. дэмаскава́ць: ***to unmask a battery*** вы́даць прысу́тнасьць гарма́таў

**unmatchable** [ʌnˈmætʃəbəl] or **unmatched** [ʌnˈmætʃt] adj. непараўна́льны

**unmeaning** [ʌnˈmiːnɪŋ] adj. 1. нязна́чны; бессэнсо́ўны. 2. безува́жны (*по́зірк*)

**unmeasured** [ʌnˈmeʒərd] adj. 1. нявы́мераны; неабся́жны, бязьме́рны; непаме́рны, ве́льмі вялі́кі. 2. нестрыма́ны

**unmerciful** [ʌnˈmɜːrsɪfəl] adj. бязьлі́тасны, неміласэ́рны; лю́ты

**unmistakable** [ˌʌnmɪˈsteɪkəbəl] adj. беспамылко́вы, непамы́льны, бессумнéўны; я́сны; про́сты; я́ўны, відаво́чны

**unmoral** [ʌnˈmɔːrəl] adj. які́ ня ма́е дачыне́ньня да мара́лі або́ э́тыкі; немара́льны

**unmoved** [ʌnˈmuːvd] adj. 1. няўмо́льны; непахі́сны, сто́йкі. 2. спако́йны, непару́шны

**unmuzzle** [ʌnˈmʌzəl] v.t. 1. зьняць намо́рднік (*з саба́кі*). 2. Figur. вызваля́ць ад абмежава́ньняў; дазваля́ць свабо́дна гавары́ць *або́* пі́саць

**unnatural** [ʌnˈnætʃərəl] adj. ненатура́льны; незвыча́йны

**unnecessary** [ʌnˈnesəseri] adj. неабавязко́вы; непатрэ́бны

**unnumbered** [ʌnˈnʌmbərd] adj. 1. ненумарава́ны, непадлі́чаны. 2. незьлічо́ны

**unobtrusive** [ˌʌnəbˈtruːsɪv] adj. недаку́члівы, сьці́плы; непрыкме́тны

**unoccupied** [ʌnˈɑːkjəpaɪd] adj. незаня́ты; паро́жны, пусты́, без жыхаро́ў (*дом*); без заня́тку, бяз пра́цы

**unostentatious** [ˌʌnɑːstenˈteɪʃəs] adj. неназо́йлівы; які́ ня кі́даецца ў во́чы; сьці́плы

**unpack** [ˌʌnˈpæk] v.t. 1. выма́ць, даставá́ць (*рэ́чы*). 2. распако́ўваць (*напр. куфэ́рак*), расклада́цца

**unpaid** [ˌʌnˈpeɪd] adj. незапла́чаны: ***His unpaid bills amounted to $200*** Яго́ныя незапла́чаныя раху́нкі дайшлі́ да двухсо́т даля́раў

**unpaved** [ʌnˈpeɪvd] adj. небрукава́ны, грунтавы́ (*пра даро́гу*)

**unpeopled** [ʌnˈpiːpəld] adj. ненасе́лены, бязьлю́дны; абязьлю́дзелы: ***unpeopled place*** незасе́леная мясьці́на, бязьлю́дзьдзе *n.*

**unpleasant** [ʌnˈplezənt] adj. непрые́мны; нязно́сны, пры́кры

**unplug** [ˌʌnˈplʌg] v.t. 1. выця́гваць за́тычку, адтыка́ць. 2. вылуча́ць (*электры́чныя прыла́ды*)

**unpopular** [ʌnˈpɑːpjələr] adj. непапуля́рны, яко́га ня лю́бяць

**unpopularity** [ˌʌnˌpɑːpjəˈlærəti] n. непапуля́рнасьць *f.*

**unpractical** [ʌnˈpræktɪkəl] adj. непракты́чны; нерэ́альны; практы́чна бескары́сны

**unpracticed** [ʌnˈpræktɪst] adj. 1. неспрактыкава́ны, няўме́лы; ма́ласпрактыкава́ны. 2. а) непрактыкава́ны, неўжыва́ны; непрабава́ны. б) які́ вы́йшаў з ужы́тку

**unprecedented** [ʌnˈpresədentəd] adj. бяспры́кладны, беспрэцэдэ́нтны; небыва́лы, нечува́ны

**unprejudiced** [ʌnˈpredʒədəst] adj. бестаро́нны, аб'екты́ўны; непрадузя́ты

**unprepared** [ˌʌmprɪˈperd] adj. непадрыхтава́ны: ***an unprepared speech*** непадрыхтава́ная прамо́ва. 2. негато́вы

**unpretending** [ˌʌnprɪˈtendɪŋ] adj. сьці́плы, про́сты, без прэтэ́нзіяў

**unpretentious** [ˌʌnprɪˈtenʃəs] adj. скро́мны, сьці́плы

**unprincipled** [ʌnˈprɪnsəpəld] adj. беспрынцыпо́вы; няслоўны

**unprintable** [ʌnˈprɪntəbəl] adj. непрыда́тны да дру́ку

**unproductive** [ˌʌnprəˈdʌktɪv] adj. непрадукцы́йны

**unprofessional** [ˌʌnprəˈfeʃənəl] adj. непрафэсі́йны

**unprofitable** [ʌnˈprɑːfɪtəbəl] adj. непрыбытко́вы, недахо́дны

**unqualified** [ʌnˈkwɑːlɪfaɪd] adj. 1. некваліфікава́ны; няго́дны, непрыда́тны. 2. бясспрэ́чны; по́ўны: ***an unqualified failure*** по́ўная няўда́ча

**unquestionable** [ʌnˈkwestʃənəbəl] adj. 1. бессумне́ўны, пэ́ўны; бясспрэ́чны. 2. беззага́нны (*пра я́касьць, хара́ктар*)

**unquiet** [ʌnˈkwaɪət] adj. неспако́йны; устурбава́ны

**unquote** [ˈʌnkwoʊt] v.t. зачыня́ць двуко́сьсе; канча́ць цытава́ньне

**unravel** [ʌnˈrævəl] – v.t. разблы́тваць, распу́тваць, разга́дваць
– v.i. разблы́твацца, распу́твацца; распада́цца

**unready** [ˌʌnˈredi] adj. негато́вы; непадрыхтава́ны

**unreal** [ʌnˈriːl] adj. уя́ўны, несапра́ўдны, нерэа́льны; фантасты́чны

**unrealistic** [ˌʌnˌriːəˈlɪstɪk] adj. нерэалісты́чны

**unreasonable** [ʌnˈriːzənəbəl] adj. 1. неразу́мны, неразва́жны. 2. непамяркоўны (*пра чалаве́ка*); празьме́рны: ***unreasonable demands*** празьме́рныя вымо́гі

**unreasonably** [ʌnˈriːzənəbli] adv. 1. неразу́мна, неразва́жна, бязглу́зда. 2. непамяркоўна, празьме́рна: ***unreasonably angry*** непамяркоўна, празьме́рна зло́сны

**unrelated** [ˌʌnrɪˈleɪtɪd] adj. 1. беззадно́сны, які́ ня ма́е дачыне́ньня, ня зьвя́заны. 2. не сваякі́

**unrelenting** [ˌʌnrɪˈlentɪŋ] adj. 1. нячу́лы, бязьлі́тасны. 2. нязьме́ншаны (*пра вы́сілак*), незапаво́лены (*крок*); неасла́бны. 3. няўмо́льны: ***unrelenting anger*** няўмо́льная злосьць

**unreliable** [ˌʌnrɪˈlaɪəbəl] adj. няпэ́ўны; ненадзе́йны, на яко́га не́льга разьлі́чваць

**unreligious** [ˌʌnrɪˈlɪdʒəs] adj. 1. нерэлігі́йны; ненабо́жны, непабо́жны. 2. ня зьвя́заны з рэлі́гіяй

**unremitting** [ˌʌnrɪˈmɪtɪŋ] adj. нясто́мны, неасла́бны (*такса́ма пра ўва́гу, намага́ньні*); ста́лы, няспы́нны: ***unremitting vigilance*** нясто́мная пі́льнасьць

**unrepentant** [ˌʌnrɪˈpentənt] adj. які́ ня ка́ецца (*за грахі́, зло*), нераска́яны

**unrequited** [ˌʌnrɪˈkwaɪtəd] adj. 1. неадпла́чаны, неадудзя́чаны; без зваро́ту: ***unrequited love*** каха́ньне без узае́мнасьці

**unreserved** [ˌʌnrɪˈzɜːrvd] adj. 1. шчы́ры, адкры́ты: ***an unreserved manner*** шчы́расьць. 2. без абмежава́ньняў; без агаво́рак. 3. не замо́ўлены за́гадзя (*пра пако́й у гатэ́лі, біле́ты*): ***unreserved seats*** незарэзэрвава́ныя ме́сцы

**unresolved** [ˌʌnrɪˈzɑːlvd] adj. 1. нестано́ўкі, нерашу́чы. 2. нявы́рашаны, неразьвяза́ны

**unrest** [ʌnˈrest] n. 1. неспако́|й -ю *m.*, трыво́га *f.*; няўры́мсьлівасьць *f.* 2. хвалява́ньні *pl. only,* забурэ́ньне *n.*: ***political unrest*** паліты́чныя забурэ́ньні

**unrestrained** [ˌʌnrɪˈstreɪnd] adj. 1. нястры́мны, няспы́нны; неўтаймава́ны. 2. неабмежава́ны (*пра свабо́ду*)

**unrighteous** [ʌnˈraɪtʃəs] adj. няпра́ведны; грэ́шны; несправядлі́вы; незаслу́жаны

**unripe** [ˌʌnˈraɪp] adj. 1. недасьпе́лы, нясьпе́лы, зялёны (*пра садаві́ну*). 2. недасьпе́лы, нlanguста́лы

**unrivaled** or **unrivalled** [ʌnˈraɪvəld] adj. непараўна́льны

**unroll** [ʌnˈroʊl] – v.t. разго́ртваць, разьвіна́ць (*спа́льны мех, дыва́н*)
– v.i. разго́ртвацца, разьвіна́цца

**UNRRA** [ˈʌnrə] (United Nations Relief and Rehabilitation Administration) Адміністра́цыя Аддзе́лу Дапамо́гі й Рэгабіліта́цыі пры Аб'е́днаных На́цыях

**unruffled** [ʌnˈrʌfəld] adj. 1. гла́дкі, без рабізны́ (*пра паве́рхню мо́ра*). 2. нпару́шны, спако́йны (*пра нату́ру чалаве́ка*)

**unruled** [ʌnˈru:ld] adj. 1. без ула́ды, без кантро́лю, нікі́м не кірава́ны, не кантралява́ны. 2. неліна́ваны: ***unruled paper*** нелінава́ная папе́ра

**unruly** [ʌnˈru:li] adj. 1. непако́рны, непако́рлівы; непаслухмя́ны; буя́ны; узбу́раны, узбунтава́ны (*нато́ўп*). 2. неспако́йны, непадула́дны: ***an unruly sea*** бурлі́вае мо́ра

**unsafe** [ʌnˈseɪf] adj. небясьпе́чны, ненадзе́йны

**unsanitary** [ʌnˈsænɪteri] adj. негігіені́чны, нездаро́вы

**unsatisfactory** [ʌnˌsætɪsˈfæktəri] adj. нездавальня́ючы (*і пра шко́льную адзна́ку*)

**unsay** [ʌnˈseɪ] v.t. адклі́каць ска́занае *або́* напі́санае, браць наза́д сваé сло́вы

**unscramble** [ʌnˈskræmbəl] v.t. прыво́дзіць да пара́дку; расшыфро́ўваць; разьбіра́ць (*невыра́знае*)

**unscrew** [ʌnˈskru:] v.t. 1. адшрубо́ўваць, адкру́чваць. 2. расшрубо́ўваць, разьбіра́ць на ча́сткі

**unscrupulous** [ʌnˈskru:pjələs] adj. 1. які не перабіра́е ў сро́дках. 2. беспрынцыпо́вы; несумле́нны

**unseal** [ˌʌnˈsi:l] v.t. 1. расьпяча́тваць: ***to unseal a letter*** расьпяча́таць ліст. 2. адкрыва́ць

**unseasonable** [ʌnˈsi:zənəbəl] adj. 1. неадпаве́дны сэзо́ну. 2. несвоечасо́вы, ня ў ча́се

**unseen** [ˌʌnˈsi:n] adj. 1. ня́бачаны, незаўва́жаны. 2. ня́бачны

**unselfish** [ʌnˈselfɪʃ] adj. бескары́сьлівы, неэгаісты́чны, альтруісты́чны; шчо́дры

**unselfishness** [ʌnˈselfɪʃnəs] n. бескары́сьлівасьць; шчо́драсьць *f.*

**unsettle** [ʌnˈsetəl] v.t. паруша́ць распара́дак, спако́й; пахісну́ць; асла́біць

**unsettled** [ʌnˈsetəld] adj. 1. бязла́дны; не ў пара́дку. 2. няўсто́йлівы; зьме́нны, няпэ́ўны: ***The weather is unsettled*** Надво́р'е пераме́нлівае. 3. незалаго́джаны: ***an unsettled bill*** няспла́чаны раху́нак. 4. незасе́лены, ненасе́лены

**unshaken** [ʌnˈʃeɪkən] adj. непахі́сны, сто́йкі, трыва́лы

**unshod** [ʌnˈʃɑ:d] adj. 1. разу́ты, неабу́ты, бо́сы. 2. непадко́ваны (*пра каня́*)

**unskilled** [ʌnˈskɪld] adj. некваліфікава́ны: ***unskilled labor*** а) некваліфікава́ная, чо́рная пра́ца. б) coll. некваліфікава́ныя рабо́тнікі

**unskillful** or **unskilful** [ʌnˈskɪlfəl] adj. 1. няўме́лы. 2. няўда́лы; нехлямя́жы, непаваро́тлівы

**unsnap** [ʌnˈsnæp] v.t. расшпіля́ць кно́пкі

**unsociability** [ʌnˌsoʊʃəˈbɪləti] n. нетавары́скасьць, непрыя́знасьць *f.*; непрыя́знае ста́ўленьне

**unsociable** [ʌnˈsoʊʃəbəl] adj. 1. нетавары́скі: ***unsociable behavior*** нетавары́скія паво́дзіны. 2. які́ ўніка́е людзе́й (*пра асо́бу*)

**unsophisticated** [ˌʌnsəˈfɪstəkeɪtəd] adj. нявы́раблены, няхі́тры, про́сты; натура́льны; нязві́нны, недасьве́дчаны

**unsound** [ˌʌnˈsaʊnd] adj. 1. нездаро́вы; пашко́джаны, сапсу́ты; гнілы́, хваблі́вы. 2. неабгрунтава́ны: ***an unsound theory*** неабгрунтава́ная тэо́рыя. 3. лёгкі, неглыбо́кі, неспако́йны: ***an unsound sleep*** лёгкі, неспако́йны сон

**unsparing** [ʌnˈsperɪŋ] adj. 1. ве́льмі шчо́дры; лібэра́льны. 2. суро́вы, бязьлі́тасны

**unspeakable** [ʌnˈspi:kəbəl] adj. 1. невыка́зны: ***unspeakable joy*** невымо́ўная ра́дасьць. 2. кра́йне благі́

**unstable** [ʌnˈsteɪbəl] adj. 1. няўстойлівы, хісткі. 2. нясталы, зьменлівы (*надвор'е, пóгляды*). 3. Chem. нетрывалы, няўстойлівы (*пра злучэньне*)

**unstable vowel** беглы галосны

**unsteady** [ʌnˈstedi] adj. 1. нясталы, хісткі: ***unsteady table*** хісткі стол. 2. няпэўны; зьменлівы, ненадзейны

**unstressed** [ʌnˈstrest] adj. 1. ненацісьнены, ненаціснуты. 2. не пад націскам, ненаціскны (*пра гук абó склад*)

**unstring** [ʌnˈstrɪŋ] v.t. **-strung, -stringing** 1. здымаць *абó* паслабляць струну. 2. здымаць зь ніткі *абó* шнурка (*пацеркі*). 3. Figur. псаваць нэрвы, нэрваваць

**unsubstantial** [ˌʌnsʌbˈstænʃəl] adj. 1. неабгрунтаваны, няпэўны; малы, слабы; нерэчаісны, нерэальны: ***unsubstantial hope*** слабая надзея. 2. нясытны, непажыўная (*ежа*)

**unsuccessful** [ˌʌnsəkˈsesfəl] adj. няўдачлівы; няўдалы

**unsuitable** [ʌnˈsuːtəbəl] adj. неадпаведны; непрыдатны

**unsullied** [ʌnˈsʌlɪd] adj. незапэцканы, незаплямлены, чысты: ***an unsullied reputation*** чыстая незаплямленая рэпутацыя

**unsung** [ˌʌnˈsʌŋ] adj. 1. несьпяваны. 2. неапеты, ня ўслаўлены ў песьнях, вершах; няўсхвалены, непраслаўлены: ***unsung heroes*** няўслаўленыя героі

**untamed** [ˌʌnˈteɪmd] adj. 1. непрыручаны, дзікі. 2. неўтаймаваны

**untangle** [ʌnˈtæŋgəl] v.t. 1. разблытваць нешта зблытанае. 2. разблытваць, рабіць ясным, зразумелым (*праблему, непаразуменьне*), растлумачваць

**unthankful** [ʌnˈθæŋkfəl] adj. няўдзячны

**unthinkable** [ʌnˈθɪŋkəbəl] adj. 1. неўяўляльны; немагчымы, немажлівы. 2. непраўдападобны

**unthinking** [ʌnˈθɪŋkɪŋ] adj. 1. бяздумны; няўважны, нядбайны. 2. няздольны думаць

**untidy** [ʌnˈtaɪdi] adj. 1. непрыбраны, не ў парадку (*пакой*). 2. неахайны, неакуратны

**untie** [ˌʌnˈtaɪ] v.t. **-tied, -tying** 1. разьвязваць (*вузел, пачку*). 2. выясьняць, высьвятляць; вытлумачваць

**until** [ənˈtɪl] – prep. 1. да: ***until evening*** да вечара

– conj. 1. перад тым, як; да таго, як; пакуль: ***Let's wait until she comes*** Пачакайма, пакуль яна прыйдзе. 2. пакуль: ***I shall not go until I finish*** Я не пайду, пакуль ня скончу

**untimely** [ʌnˈtaɪmli] – adj. несвоечасовы, перадчасны, заўчасны

– adv. несвоечасова, перадчасна, заўчасна: ***His death came untimely at 32*** Ягоная сьмерць прыйшла перадчасна ў трыццаць два гады

**untiring** [ʌnˈtaɪrɪŋ] adj. нястомны, няўтомны

**untold** [ˌʌnˈtoʊld] adj. 1. нерасказаны. 2. незьлічоны: ***There are untold stars in the sky*** На небе незьлічоная колькасьць зорак. 3. вялізны, велічэзны: ***untold wealth*** велічэзнае багацьце

**untouchable** [ʌnˈtʌtʃəbəl] – adj. 1. недатыкальны. 2. непарушны, некранальны (*запас*)

– n. 1. асоба з найніжэйшай касты. 2. Figur. падонак грамадзтва, парыя -і *m.*

**untouched** [ʌnˈtʌtʃt] adj. 1. некрануты, някрануты: ***The cat left the milk untouched*** Кот пакінуў малако някранутым. 2. нячулы, некрануты, някрануты: ***The miser was untouched by the poor man's story*** Скнару не крануў расказ беднага чалавека. 3. неразгляданы: ***The last topic was left untouched*** Апошняе пытаньне засталося неразгледзеным

**untried** [ʌnˈtraɪd] adj. неспрабаваны, неправераны; нявыпрабаваны

**untrue** [ʌnˈtruː] adj. 1. фальшывы, непраўдзівы; няправільны. 2. несуверны, няверны. 3. неадпаведны (*норме абó правілу*)

**untruth** [ʌnˈtruːθ] n. 1. фальшывасьць, няправільнасьць *f.* 2. мана, ілжа *f.* няпраўда *f.*

**untruthful** [ʌnˈtru:θfəl] adj. 1. хлусьлі́вы, ілжы́вы. 2. нязго́дны з пра́ўдай (*паведамле́ньне*)

**untwist** [ʌnˈtwɪst] – v.t. раскру́чваць, разьвіва́ць
– v.i. раскру́чвацца, разьвіва́цца

**unusual** [ʌnˈju:ʒuəl] adj. 1. незвыча́йны; надзвыча́йны. 2. няча́ста сустрака́ны; рэ́дкі

**unusually** [ʌnˈju:ʒuəli] adv. незвыча́йна; рэ́дка; надзвыча́йна, кра́йне

**unvarnished** [ʌnˈvɑ:rnɪʃt] adj. 1. нелякава́ны (*і пра падло́гу*). 2. про́сты, непрыхаро́шаны: ***the unvarnished truth*** непрыхаро́шаная пра́ўда

**unveil** [ʌnˈveɪl] – v.t. 1. здыма́ць *або́* адве́шваць засло́ну. 2. раскрыва́ць, адкрыва́ць, выяўля́ць: ***to unveil a secret*** раскры́ць таямні́цу
– v.i. адкрыва́ць свой твар; паказа́цца сапра́ўдным

**unveiling** [ʌnˈveɪlɪŋ] n. адкрыцьцё *n.* (*ста́туі, по́мніка*)

**unvoiced** [ʌnˈvɔɪst] adj. 1. ня ска́заны, ня вы́казаны сло́вамі. 2. Phon. ***unvoiced sound*** глухі́ (зы́чны) гук

**unwanted** [ʌnˈwɑ:ntəd] adj. нежада́ны, непажада́ны; непатрэ́бны, лі́шні

**unwarrantable** [ʌnˈwɔ:rəntəbəl] adj. 1. неапра́ўданы, недапушча́льны; кра́йне неадпаве́дны. 2. недазво́лены, нелега́льны

**unwary** [ʌnˈweri] adj. неасьцяро́жны; няўва́жлівы; неаба́члівы; неабярэ́жны

**unwashed** [ʌnˈwɔ:ʃt] adj. 1. нямы́ты, непамы́ты. 2. ня змы́ты (*бе́раг*)

**unwavering** [ʌnˈweɪvərɪŋ] adj. непахі́сны

**unwearied** [ʌnˈwi:rɪd] adj. 1. нязмо́раны, нясто́млены. 2. нясто́мны

**unwelcome** [ʌnˈwelkʌm] adj. неахво́тна прыма́ны; непажада́ны (*госьць*)

**unwell** [ʌnˈwel] adj. нездаро́вы, хво́ры: ***He is unwell*** Яму́ нездаро́віцца

**unwept** [ʌnˈwept] adj. 1. неапла́каны. 2. непралі́ты, нявы́плаканы: ***unwept tears*** непралі́тыя сьлёзы

**unwholesome** [ʌnˈhoʊlsəm] adj. нездаро́вы, шко́дны (*пра е́жу, клі́мат*)

**unwieldy** [ʌnˈwi:ldi] adj. 1. груба́сткі, непаваро́тны; гру́зны й нехлямя́жы: ***the unwieldy armor of knights*** груба́сткі па́нцыр ры́цараў

**unwilling** [ʌnˈwɪlɪŋ] adj. неахво́чы, нясхі́льны; нязго́дны

**unwise** [ˌʌnˈwaɪz] adj. неразу́мны, няму́дры; дурны́

**unwitting** [ʌnˈwɪtɪŋ] adj. нясьве́дамы, ненаўмы́сны: ***an unwitting insult*** ненаўмы́сная зьнява́га

**unwittingly** [ʌnˈwɪtɪŋli] adv. нясьве́дама; ненаўмы́сна

**unwonted** [ʌnˈwɔ:ntəd] adj. 1. незвыча́йны; нязвы́чны (*пра абста́віны*). 2. непрывы́клы, непрызвыча́ены

**unworkable** [ʌnˈwɜ:rkəbəl] adj. невыкана́льны, нерэ́альны

**unworldly** [ʌnˈwɜ:rdli] adj. 1. не заціка́ўлены зямны́мі спра́вамі. 2. незямны́, звышнатура́льны. 3. нясьве́цкі

**unworthily** [ʌnˈwɜ:rðɪli] adv. недасто́йна, ні́зка, по́дла; гане́бна

**unworthy** [ʌnˈwɜ:rði] adj. 1. ныва́рты, незаслу́жаны. 2. ні́зкі, гане́бны. 3. бязва́ртасны

**unwrap** [ʌnˈræp] v.t. разго́ртваць, раскру́чваць (*паку́нак*), распако́ўваць, адкрыва́ць

**unwritten** [ʌnˈrɪtən] adj. 1. няпі́саны. 2. звычаёвы. 3. не запі́саны, чы́сты (*пра а́ркуш папе́ры*)

**unwritten law** звычаёвае пра́ва

**unyielding** [ʌnˈji:ldɪŋ] adj. непадаўкі́; незгаво́рлівы; сто́йкі; упа́рты

**unyoke** [ʌnˈjoʊk] v.t. 1. здыма́ць ярмо́: ***unyoke oxen*** распрэ́гчы вало́ў. 2. разлуча́ць, адлуча́ць

**up** [ʌp] – adv. 1. увы́сь, уве́рх; угару́, уго́ру; дагары́: ***The bird flew up*** Пту́шка ўзьляце́ла ўгару́; ***Hands up!*** Ру́кі ўго́ру! 2. уве́рсе, угары́: ***He stayed up in the mountains several days*** Ён прабы́ў у го́рах ко́лькі дзён
– prep. 1. уве́рх (па): ***The cat ran up the tree*** Кот шмы́гнуў уве́рх па дрэ́ве. 2. на верхаві́ну: ***They climbed up the hill*** Яны́ ўзабра́ліся на верхаві́ну

ўзгóрка. 3. угарý, нагарý: ***up the river*** угарý па рацэ́; ***up the steps*** нагарý па схóдах; ***up wind*** сýпраць вéтру
– n. 1. рух угóру, падымáньне ўгóру. 2. Informal пэры́яд удáчаў, дабрабы́ту й шчáсьця: а) ***Her life is full of ups and downs*** Ейнае жыцьцё пóўнае зьмéнлівасьці лёсу. б) ***to have one's ups and downs*** чýцца раз лепш, раз гóрай
• ***Add this up*** Складзí гэ́тыя лíкі
• ***age twelve and up*** дванáццаць гадóў і вышэ́й
• ***be up against,*** Informal стая́ць (апынýцца) пéрад *чым* (*задáньнем, небясьпéкай*)
• ***bring up a new topic*** узьня́ць нóвае пытáньне
• ***get up*** уставáць
• ***Get up!*** Уставáй! (*з лóжка, са сну*)
• ***go up*** павы́сіцца: ***Prices have gone up*** Цэ́ны павы́сіліся
• ***It's up to you*** Як хóчаш; Табé вырашáць
• ***stand up*** устáць (*на нóгі*)
• ***store up supplies*** трымáць запáсы на склáдзе
• ***The house burned up*** Дом цалкóм згарэ́ў
• ***The sun is up*** Сóнца ўзыйшлó
• ***Time is up*** Ужó мінýў час
• ***up and down*** а) угарý і ўнíз. б) туды́-сюды́; у шмат якíх *абó* рóзных мéсцах: ***up and down the country*** шмат дзе ў краí
• ***up against it,*** Informal у ця́жкасьцях
• ***up north*** на пóўначы: ***He lives up north*** Ён жывé на пóўначы
• ***up to: to be up to*** а) рабíць; намéрвацца, хацéць рабíць. б) раўнáцца да *кагó*; быць здóльным, адпавéдным: ***to be up to a task*** быць здóльным вы́канаць задáньне. в) рабíць змóву: ***What are you up (to)?*** Што тут за змóва? Што вы тут задýмалі?
• ***up to here*** дагэ́туль
• ***What's up?*** Што тут рóбіцца? Што стáлася?

**up-and-down** [ˌʌpənˈdaʊn] adj. 1. зьмéнлівы, якí падымáецца і ападáе. 2. прастастáўны

**upbraid** [ʌpˈbreɪd] v.t. ушчувáць; вінавáціць; дакарáць

**upbringing** [ˈʌpˌbrɪŋi ŋ] n. узгадавáньне; узгадóўваньне *n.*

**upcountry** [ˌʌpˈkʌntri] – n., pl. **-tries** цэнтрáльныя раёны крáю
– adv. у цэ́нтры крáю
– adj. якí знахóдзіцца *абó* жывé ў цэ́нтры крáю

**update** [ʌpˈdeɪt] v.t. мадэрнізавáць; дастасóўваць да чáсу; дапаўня́ць (*папярэ́дняе вы́даньне*)

**upheaval** [ʌpˈhi:vəl] n. 1. зрух -у *m.*; зрушэ́ньне *n.* 2. палітычны перавар́от; сацыя́льныя хваляваньнí, непарáдкі, забурэ́ньне *n.*

**upheave** [ʌpˈhi:v] – v.t. **-heaved** or **-hove, -heaving** падымáць, паднімáць
– v.i. узьня́цца; падымáцца, паднімáцца

**upheld** [ʌpˈheld] v., *p.t. and p.p. of* **uphold**

**uphill** [ʌpˈhɪl] – adv. угару, угóру ***a mile uphill*** аднý мíлю ўгарý
– adj. [ˈʌphɪl] 1. якí ідзé, паднімáецца ўгарý: ***It is an uphill road all the way*** Гэ́тая дарóга ідзé ўвéсь час ўгарý. 2. цяжкí: ***an uphill fight*** цяжкóе змагáньне

**uphold** [ʌpˈhoʊld] v.t. **-held, -holding** 1. падтры́мваць; пацьвярджáць. 2. ухваля́ць. 3. трымáць, падпірáць

**upholster** [ʌpˈhoʊlstər] v.t. 1. абця́гваць, абшывáць, абівáць мэ́блю, рабíць мя́ккую мэ́блю. 2. дэкаравáць пакóй (*фірáнкамі, штóрамі, дыванáмі*)

**upholsterer** [ʌpˈhoʊlstərər] adj. спэцыялíст да абівáньня мэ́блі, абівáльшчык -а *m.*, абівáльшчыца *f.*; дэкарáтар -а *m.*, дэкарáтарка *f.*

**upholstery** [ʌpˈhoʊlstəri] n., pl. **-steries** 1. абíўка *f.* (*мэ́блі*). 2. заня́так абівáльшчыка, дэкарáтара

**upkeep** [ˈʌpki:p] n. 1. утрымáньне *n.*, рамóнт -у *m.* 2. кошт утрымáньня і рамóнту

**upland** [ˈʌplənd] – n. гары́стая ча́стка кра́ю
– adj. гары́сты; наго́рны
**upmost** [ˈʌpmoʊst] adj. найвышэ́йшы
**upon** [əˈpɑ:n] prep. на
**upper** [ˈʌpər] – adj. 1. ве́рхні: ***the upper lip*** ве́рхняя губа́; ***the upper floor*** ве́рхні паве́рх. 2. вышэ́йшы (*ра́нгам, ура́дам, стано́вішчам*). 3. вы́шні, ве́рхні: ***upper Nioman*** ве́рхні Нёман, вярхо́ўе Нёману
– n. верх чараві́ка *або́* бо́та (*ча́стка бо́та без падэ́швы*)
• ***to get the upper hand*** перамагчы́
**upper case** вялі́кая лі́тара
**Upper House** or **upper house** (*у ЗША і Кана́дзе*) сэна́т -у *m.*, (*у Вялі́кай Брыта́ніі*) пала́та ло́рдаў
**uppermost** [ˈʌpərmoʊst] – adj. 1. найвышэ́йшы, са́мы ве́рхні. 2. найважне́йшы. 3. наймацне́йшы, найвыдатне́йшы
– adv. 1. найвышэ́й. 2. найважне́й
**upright** [ˈʌpraɪt] – adj. 1. які́ стаі́ць про́ста ўве́рх; про́сты. 2. до́бры, сумле́нны
– adv. стаўма́, старчма́, старчако́м
**upright piano** піяні́на *n.*
**uprise** [ˈʌpraɪz] – v., **-rose, -risen, -rising** 1. паўстава́ць, узьніма́ь паўста́ньне. 2. уздыма́цца ўго́ру. 3. прыбыва́ць (*напр. пра ваду́ ў рацэ́*)
– n. паўстава́ньне; уздыма́ньне, прыбыва́ньне *n.*
**uprisen** [ˌʌpˈrɪzən] v., *p.p. of* **uprise**
**uprising** [ˈʌpˌraɪzɪŋ] n. 1. паўста́ньне *n.*, бунт -у *m.* 2. устава́ньне *n.* 3. стро́ма *f.*
**uproar** [ˈʌprɔ:r] n. 1. крыклі́вае замяша́ньне; хвалява́ньні. 2. га́лас, го́ман, гвалт -у *m.*, кры́кі *pl.*; сумятня́ *f.*: ***to make uproar*** падня́ць га́лас, го́ман; ***in an uproar*** у ста́не вялі́кага замяша́ньня, разгу́бленасьці
**uproarious** [ˈʌprɔ:riəs] adj. 1. шу́мны, гаманлі́вы, крыклі́вы: ***an uproarious crowd*** шу́мны крыклі́вы нато́ўп. 2. го́ласны, гу́чны: ***uproarious laughter*** го́ласны, гу́чны і нястры́мны сьмех
**uproot** [ʌpˈru:t] v.t. 1. вырыва́ць з карэ́ньнем. 2. выкараня́ць, зьнішча́ць
**uprose** [ˌʌpˈroʊz] v., *p.t. of* **uprise**
**upset** [ʌpˈset] – v.t. **-set, -setting** 1. перакýльваць, пераваро́чваць дагары́ нага́мі, абаро́чваць: ***to upset a boat*** перакулі́ць чо́вен. 2. перашкаджа́ць, разла́джваць: ***Rain upset our plans for a picnic*** Дождж разла́дзіў на́шыя пляны спра́віць маёўку. 3. а) разьбіва́ць: ***to upset an argument*** разьбі́ць до́вады (*у спрэ́чцы*). б) нечака́на перамагчы́. 4. хвалява́ць, засмуча́ць, псава́ць настро́й, выбіва́ць з раўнава́гі
– v.i. хвалява́цца; засмуча́цца
– n. [ˈʌpset] 1. перакýленьне, перавéрненьне *n.* 2. вялі́кія забурэ́ньні, бязла́дзьдзе *n.* 3. нечака́ная перамо́га (*у спабо́рніцтве*)
– adj. 1. перакýлены, пераве́рнуты. 2. мо́цна засму́чаны, устрыво́жаны, расхваля́ваны. 3. пару́шаны, устурбава́ны: ***an upset stomach*** сапсу́ты стра́ўнік, нястра́ўнасьць
**upshot** [ˈʌpʃɑ:t] n. высно́ва *f.*; вы́нік -у *m.*
**upside** [ˈʌpsaɪd] n. ве́рхні бок; ве́рхняя ча́стка
**upside down** 1. уве́рх спо́дам, уве́рх дно́м; дагары́ нага́мі. 2. у по́ўным непара́дку
**upstairs** [ˌʌpˈsterz] adv. нагары́, на ве́рхнім паве́рсе; нагару́
**upstart** [ˈʌpstɑ:rt] n. вы́скачка *m.&f.*; парвэню́ *m., indecl.*
**upstate** [ˌʌpˈsteɪt] n. адда́леная ад цэ́нтру (*звыча́йна паўно́чная*) ча́стка шта́ту
**upstream** [ʌpˈstri:m] adv., adj. су́праць плы́ні (*ракі́*), су́праць вады́; у кіру́нку да вярхо́ўя ракі́
**upsurge** [ˈʌpsɜ:rdʒ] – v.i. уздыма́цца, падыма́цца
– n. 1. раптоўнае пабо́льшаньне (*ро́сту або́ разьві́цьця́*). 2. паўста́ньне *n.*
**up-to-date** [ˌʌptəˈdeɪt] – adj. 1. які́ сяга́е да суча́снасьці. 2. які́ адпавяда́е суча́сным вымо́гам: ***an up-to-date textbook*** падру́чнік напі́саны паво́для

навéйшых вымóгаў. 3. сучáсны. 4. найнóўшы

**up-to-the-minute** [ˌʌptəðəˈmɪnɪt] adj. сáмы апóшні, найнавéйшы: ***up-to-the-minute news*** сáмыя апóшнія вéсткі

**uptown** [ʌpˈtaʊn] – adv. на ўскрáіне гóраду; на ўскрáіну гóраду
– n. вéрхняе мéста, вéрхні гóрад
– adj. [ˈʌptaʊn] ускрáінны: ***an uptown store*** крáма на ўскрáіне гóраду

**upturn** [ʌpˈtɜ:rn] – v.t. 1. падкладáць, скарачáць (*сукéнку*). 2. рабíць рáдыё гучнéй
– n. [ˈʌptɜ:rn] 1. пад'ём, рост -у *m.* (*цэ́наў*). 2. палéпшаньне *n.* (*умóваў*)

**upturned** [ʌpˈtɜ:rnd] adj. 1. паракýлены, абéрнуты. 2. загнýты ўвéрх

**upward** [ˈʌpwərd] – adv. 1. угарý; нагарý; увéрх, увы́сь. 2. найвышэ́й, наймацнéй. 3. вышэ́й: ***From public school upward, she studied French*** Ад пачáткавае шкóлы і вышэ́й янá вывучáла францýскую мóву. 4. вышэ́й, больш: ***children of five years and upward*** дзéці ад пяцёх гадóў і вышэ́й. 5. увéрх: ***follow a river upward*** ісьці́ увéрх ракí
– adj. накіравáны ўвéрх
• ***upward of*** больш, як

**upwards** [ˈʌpwərdz] adv., *гл.* **upward,** adv.

**uranium** [juˈreɪniəm] – n., Chem. урáн -у *m.*
– adj. урáнавы

**Uranus** [ˈjʊrənəs] n. 1. Myth. Урáн -а *m.* 2. Урáн -а *m.* (*плянэ́та*)

**urban** [ˈɜ:rbən] adj. 1. мéставы, гарадзкí. 2. якí жывé ў мéсьце

**urbane** [ɜ:rˈbeɪn] adj. 1. вéтлівы, увáжлівы да íншых; далікáтны. 2. са сьвéцкімі манéрамі

**urbanity** [ɜ:rˈbænəti] n., pl. **-ties** 1. вéтлівасьць, далікáтнасьць, элегáнтнасьць *f.* 2. дóбрыя манéры; умéньне трымáць сябé ў таварыстве

**urbanize** [ˈɜ:rbənaɪz] v.t. 1. урбанізавáць. 2. разбудóўваць гарады́

**urchin** [ˈɜ:rtʃɪn] n. 1. хлапчýк -á *m.*, падлéт|ак -ка *m.* 2. а) гарэ́з|а -ы *m.*; свавóльнік, распýсьнік -а *m.*; б) вíсус -а *m.*, Informal шчанюк -á *m.* 3. бéднае, абадрáнае дзіця́. 4. марскí вóжык

**urge** [ɜ:rdʒ] – v.t. 1. паганя́ць, (on) падганя́ць: ***The rider urged on his horse with a whip and spurs*** Вéршнік падганя́ў каня́ пýгай і шпóрамі. 2. угавóрваць, намаўля́ць, налягáць: ***They urged him to stay*** Яны́ ўгавóрвалі ягó застáцца. 3. дамагáцца, дабівáцца: ***Motorists urged better roads*** Аўтамабілíсты дамагáліся лéпшых дарóгаў
– n. ця́га *f.*, íмпульс -у *m.*, мóцнае жадáньне, прáга *f.*

**urgency** [ˈɜ:rdʒənsi] n., pl. **-cies** 1. пíльнасьць *f.*, пíльная патрэ́ба: ***A matter of great urgency*** вéльмі пíльная спрáва. 2. настóйлівасьць, напóрлівасьць; сур'ёзнасьць *f.* (*дамагáньняў*)

**urgent** [ˈɜ:rdʒənt] adj. 1. пíльны; неадклáдны, сьпéшны; вáжны: ***an urgent duty*** вáжны абавя́зак. 2.напóрлівы, настóйлівы (*пра прóсьбу, дамагáньне*)

**uric** [ˈjʊrɪk] adj. мачавы́: ***uric acid*** мачавáя кіслатá

**urinal** [ˈjʊrənəl] n. 1. пісуáр -а *m.* (*у мужчы́нскай прыбірáльні*). 2. мужчы́нская прыбірáльня. 3. начны́ гаршчóк

**urinary** [ˈjʊrəneri] – adj. мачавы́ (*óрган, хварóба*)
– n., pl. **-naries** мужчы́нская прыбірáльня

**urinate** [ˈjʊrəneɪt] v.i. мачы́цца, выдзяля́ць мачý

**urine** [ˈjʊrən] n. мачá *f.*

**urn** [ɜ:rn] n. 1. ýрна *f.* 2. мéсца пахавáньня; магíла *f.*, дол -у *m.* 3. бляшáны бачóк з крáнам на кáву абó гарбáту

**Ursa Major** [ˌɜ:rsəˈmeɪʒər] Astron. Вялíкая Мядзьвéдзіца

**Ursa Minor** [ˌɜ:rsəˈmaɪnər] Astron. Малáя Мядзьвéдзіца

**Uruguayan** [ˌjʊrəgˈwaɪən] – adj. уругвáйскі
– n. уругвáле|ц -йца *m.*, уругвáйка *f.*

**us** [ʌs] pron. *ускóсны склон ад* **we:** 1. а) нас: ***He saw us*** Ён нас бáчыў; ***One of us*** адзíн з нас. б) ***to us*** нам. в) ***with us*** з нáмі, пры нас: ***Her mother lives with us*** Яé мáці жывé з нáмі

**usable**, *тс.* **useable** [ˈju:zəbəl] adj. які́ мóжа быць ужывáным; прыдáтны, гóдны для ўжывáньня

**usage** [ˈju:sɪdʒ] n. 1. карыстáньне, абыхóджаньне *n.*: ***The car has had rough usage*** З машы́най абыхóдзіліся нядбáла. 2. агýльна прыня́ты звы́чай, звы́чка, умóўнасьці, прáктыка. 3. нармáльны спóсаб ужывáньня мóвы

**use** [ju:z] – v.t. 1. ужывáць; карыстáцца: ***We use spoons to eat soup*** Мы ўжываéм лы́жкі, каб éсьці сýп. 2. ужывáць слóвы, фрáзы; гавары́ць: ***to use bad grammar*** гавары́ць неграматы́чна (няпрáвільна). 3. стáвіцца, аднóсіцца. 4. ужывáць, выдаткóўваць: ***We have used most of the money*** Мы вы́даткавалі бальшыню́ грóшай. 5. скарыстóўваць: ***May I use your telephone?*** Ці магý пакарыстáцца вáшым тэлефóнам?

– n. [ju:s] 1. ужывáньне *n.*: ***the use of tools*** ужывáньне прылáдаў. 2. ужы́так -ку *m.*: ***methods long out of use*** мэ́тады, якíя даўнó вы́йшлі з ужы́тку. 3. кары́сьць, прыдáтнасьць *f.*: ***What's the use of it?*** Якáя кары́сьць з гэ́тага? 4. спóсаб выкарыстóўваньня: ***a poor use of materials*** благóе выкарыстóўваньне матэрыя́лаў. 5. карыстáньне *n.*: ***a park for the use of all the people*** парк для агýльнага карыстáньня. 6. патрэ́ба *f.*: ***He had no further use for it*** Гэ́та ямý ўжó былó непатрэ́бна. 7. прáва *абó* прывілéй карыстáньня: ***to have the use of a boat for the summer*** мець прáва карыстáцца лóдкай на працягу лéта

• ***have no use for*** а) не патрабавáць, не хацéць: ***I have no use for it any longer*** Мне гэ́та ўжó не патрэ́бна, мне гэ́та не падабáецца

• ***in use*** ужывáцца, быць ува ўжы́тку

• ***make use of*** карыстáцца *чым*, скарыстáць *што*; ужывáць

• ***put to use*** ужывáць: ***put to good use*** для дóбрага ўжы́тку

• ***used to*** а) прызвычáены, звы́чны: ***used to hardships*** прызвычáены да ця́жкасьцяў. б) былó ранéй ***He used to come every day*** Ранéй ён прыхóдзіў штодня́; ***There used to be a house here*** Ранéй тут быў дом

• ***use up*** а) пóўнасьцю ужы́ць, вы́даткаваць, патрáціць (*грóшы*). б) Informal змардавáць; стамíць; зьнясíліць; вы́чарпаць (*сíлы, запáсы*)

**useable** [ˈju:zəbəl] adj., *гл.* **usable**

**used** [ju:zd] adj. 1. ня нóвы, ужывáны, стары́, нóшаны (*пра абýтак, вóпратку*): ***a used car*** ужывáны аўтамабíль. 2. [ju:st] прызвычáены: ***You'll soon get used to it*** Вы хýтка прызвычáіцеся да гэ́тага

**useful** [ˈju:sfəl] adj. прыдáтны, прыгóдны; кары́сны

**usefulness** [ˈju:sfəlnəs] n. прыдáтнасьць, прыгóднасьць; кары́снасьць *f.*

**useless** [ˈju:sləs] adj. непрыдáтны, непрыгóдны; бескары́сны, дарэ́мны

**user** [ˈju:zər] n. карыстáльнік -а *m.*

**usher** [ˈʌʃər] – n. 1. швэйцáр -а *m.* (*у гатэ́лі, рэстарáне*). 2. білецёр -а *m.*, білецёрка *f.* (*у тэáтры, кінó, музэ́і*). 3. дрýжк|а -і *m.* (*на вясéльлі*)

– v.t. 1. суправаджáць, увóдзіць, правóдзіць: ***He ushered the visitors to the door*** Ён правёў гасьцéй да дзьвярэ́й. 2. папярэ́днічаць *што камý-чамý*; апавяшчáць прыхóд *кагó*: ***to usher in*** адкрывáць, пачынáць; папераджáць: ***People get together to usher in the New Year*** Лю́дзі зьбірáюцца рáзам, каб сустрэ́ць Нóвы Год

**USSR** [ˌju:esesˈɑ:r] (Union of Soviet Socialist Republics) СССР

**usual** [ˈju:ʒuəl] adj. 1. звычáйны, агýльна ўжывáны

• ***as usual*** як звычáйна

**usually** [ˈju:ʒuəli] adv. звычáйна; бóльшай чáсткай, стáла

**usurer** [ˈju:ʒərər] n. ліхвя́р -á *m.*, ліхвя́рка *f.*
**usurious** [ju:ˈʒʊriəs] adj. ліхвя́рскі: ***Fifty per cent is a usurious rate of interest*** Пяцьдзеся́т працэ́нтаў — гэ́та ліхвя́рскі працэ́нт
**usurp** [ju:ˈsɜ:rp] v.t. нелега́льна захапля́ць (*ула́ду, паса́ду*), узурпава́ць: ***The king's brother tried to usurp the throne*** Брат караля́ спрабава́ў захапі́ць трон.
**usurpation** [ˌju:sərˈpeɪʃən] n. узурпа́цыя *f.*
**usurper** [ju:ˈsɜ:rpər] n. узурпа́тар -а *m.*
**usury** [ˈju:ʒəri] n., pl. **-ries** ліхвя́рства *n.*
**utensil** [jʊˈtensəl] n. 1. прыла́да *f.* 2. по́суд -у *m.*, пасу́д|ак -ку *m.*: ***Pots, pans, etc. are kitchen utensils*** Гаршкі́, патэ́льні ды інш. — гэ́та кухо́нны по́суд
**uterine** [ˈju:tərаɪn] adj. ма́тачны: ***uterine brother*** зво́дны брат
**uterus** [ˈju:tərəs] n.,pl. **-teri**, Anat. ма́тка *f.*
**utilitarian** [juˌtɪlɪˈteriən] – adj. практы́чны, утыліта́рны
– n. пасьлядо́ўнік утыліта́ры́зму
**utilitarianism** [juˌtɪlɪˈteriənɪzəm] n. утыліта́ры́зм -у *m.*
**utility** [juˈtɪləti] – n., pl. **-ties** 1. кары́снасьць, пры́го́днасьць, пры́да́тнасьць *f.*: ***A fur coat has more utility in winter than in summer*** Фу́тра больш пры́да́тнае ўзімку, чым улётку. 2. кары́сная рэч. 3. кампа́нія, якая выко́нвае грама́дзкія паслу́гі: ***public utility*** прадпрые́мства камуна́льных паслу́гаў
– adj. ужыва́ны для практы́чных мэ́таў
**utility pole** электры́чны *або́* тэлефо́нны слуп
**utilization** [ˌju:təlɪˈzeɪʃən] n. выкарыста́ньне, ужыва́ньне з кары́сьцю, утыліза́цыя (*адкі́даў вытво́рчасьці, цяпла́*)
**utilize** [ˈju:təlaɪz] v.t. выкарысто́ўваць: ***to utilize leftovers in cooking*** выкарысто́ўваць рэ́шткі праду́ктаў пры варэ́ньні
**utmost** [ˈʌtmoʊst] – adj. 1. найбо́льшы, кра́йні, ве́льмі: ***Sunshine is of utmost importance to health*** Со́нечнае сьвятло́ ве́льмі ва́жнае для здаро́ўя. 2. найбо́льш адда́лены *або́* вы́сунуты, найдале́йшы: ***He walked to the utmost edge of the cliff*** Ён падыйшо́ў да са́мага кра́ю стро́мы
– n. усё магчы́мае: ***I shall do my utmost*** Зраблю́ ўсё магчы́мае
**utopia** [juˈtoʊpiə] n. уто́пія *f.*
**Utopian** or **utopian** [juˈtoʊpiən] – adj. 1. утапі́чны. 2. уя́ўны, непракты́чны
– n. утапі́ст -а *m.*, а) жыха́р Уто́піі. б) заўзя́ты, але непракты́чны рэфарма́тар; ідэалі́ст -а *m.*
**utter I** [ˈʌtər] adj. по́ўны, абсалю́тны: ***utter surprise*** по́ўная нечака́насьць; ***utter ruin*** по́ўная руі́на
**utter II** [ˈʌtər] v.t. 1. мо́віць, вымаўля́ць, каза́ць; выка́зваць: ***the last words he uttered*** апо́шнія сло́вы, якія ён вы́мавіў; ***to utter one's thoughts*** выка́зваць сваю́ ду́мку. 2. выкры́кваць: ***to utter a cry of pain*** кры́кнуць ад бо́лю. 3. Obsol. выпушча́ць, пуска́ць у абаро́т (*падро́бленыя дакумэ́нты, гро́шы*)
**utterly** [ˈʌtərli] adv. ца́лкам, зусі́м; абсалю́тна
**uttermost** [ˈʌtərmoʊst] adj., *гл.* **utmost**
**U-turn** [ˈju:tɜ:rn] n. развaро́т -у *m.* (*а́ўтам*); паваро́т на 180 гра́дусаў
**uvula** [ˈju:vjələ] n., pl. **-las**, **-lae**, Anat. язычо́к -ка́ *m.*
**uvular** [ˈju:vjələr] adj. язычко́вы
**Uzbek** [ˈʊzbek] – n. узбэ́к -а *m.*, узбэ́чка *f.* 2. мо́ва узбэ́каў
– adj. узбэ́цкі

# V

**V, v** [vi:] n.,pl. **V's, v's** 1. *два́ццаць друга́я лі́тара анге́льскага альфабэ́ту.* 2. V-падо́бная фо́рма. 3. ры́мская лі́чба пяць. 4. знак перамо́гі

**vacancy** [ˈveɪkənsi] n., pl. **-cies** 1. пустэ́ча *f.* 2. незаня́тае стано́вішча, вака́нсія *f.* 3. свабо́днае, незаня́тае ме́сца: ***a vacancy in a motel*** во́льнае ме́сца ў матэ́лі

**vacant** [ˈveɪkənt] adj. 1. во́льны, пусты́: ***a vacant house*** нікі́м не заня́ты дом. 2. бязду́мны, пусты́: ***a vacant smile*** бязду́мная ўсьме́шка. 3. свабо́дны: ***vacant time*** час свабо́дны ад пра́цы

**vacate** [ˈveɪkeɪt] v.t. 1. звальня́ць, апаражня́ць (*пако́й, паме́шканьне*): ***They will vacate the house next month*** Яны́ вы́беруцца з до́му ў насту́пным ме́сяцы. 2. пакіда́ць незаня́тым (*ме́сца, стано́вішча*). 3. скасо́ўваць; ануля́ваць: ***All former agreements were vacated by this contract*** Усе́ папярэ́днія пагадне́ньні былі́ анулява́ныя гэ́тым кантра́ктам

**vacation** [veɪˈkeɪʃən] – n. 1. вака́цыі, кані́кулы *pl. only*: ***a vacation from schoolwork*** шко́льныя вака́цыі. 2. адпачы́н|ак -ку, во́дпуск -у *m.*
– v.i. право́дзіць адпачы́нак

**vaccination** [ˌvæksɪˈneɪʃən] n. 1. прышчапле́ньне *n.*, вакцына́цыя *f.* 2. во́сьпіна *f.*

**vaccine** [vækˈsi:n] n. прышчэ́пка, вакцы́на *f.*

**vacillate** [ˈvæsɪleɪt] v.i. 1. хіста́цца, ківа́цца. 2. вага́цца, сумнява́цца

**vacillation** [ˌvæsɪˈleɪʃən] n. 1. хіста́ньне *n.* 2. няўсто́йлівасьць, зьме́нлівасьць, хі́сткасьць *f.* (*по́глядаў*)

**vacuity** [væˈkju:əti] n. **-ties** 1. пу́стка *f.*, ва́куум -у *m.* 2. Figur. бязду́мнасьць, безьзьмясто́ўнасьць *f.* 3. спусто́шанасьць *f.*

**vacuous** [ˈvækjuəs] adj. 1. бязду́мны, тупы́. 2. пусты́

**vacuum** [ˈvækjuəm] – n., pl. **vacuums** or **vacua** 1. ва́куум -у *m.*, пу́стка *f.* 2. пустэ́ча *f.* 3. пыласо́с -а *m.*
– v.t. чы́сьціць пыласо́сам, пыласо́сіць

**vacuum cleaner** пыласо́с -а *m.*

**vacuum-packed** adj. гэрмэты́чна запакава́ны

**vacuum pump** ва́куумная по́мпа

**vacuum tube** электро́нная ля́мпа

**vagabond** [ˈvægəbɑ:nd] – n. 1. туля́г|а, бадзя́г|а, валацу́г|а -і *m.& f.* 2. гульта́|й -я́ *m.*; нікчэ́мнік -а *m.*
– adj. 1. вандро́ўны. 2. бадзя́жны

**vagabondage** [ˈvægəbɑ:ndɪdʒ] n. вандрава́ньне, туля́ньне, бадзя́жніцтва *n.*; вандро́ўніцтва *n.*

**vagary** [ˈveɪgəri] n., pl. **-ries** 1. дзіва́цтва *n.* 2. капры́з -у *m.*, пры́хамаць *f.*

**vagina** [vəˈdʒaɪnə] n. **-nas, -nae** Anat. по́хва, вагі́на *f.*

**vaginal** [ˈvædʒənəl] adj. пóхвенны, вагінáльны

**vagrancy** [ˈveɪgrənsi] n., pl. **-cies** 1. туля́ньне; бадзя́жніцтва, валацýжніцтва *n.* 2. вандрóўніцтва *n.*

**vagrant** [ˈveɪgrənt] – n. 1. бадзя́г|а, туля́г|а, валацýг|а -і *m.* 2. вандрóўнік -а *m.*
– adj. 1. вандрóўны. 2. бадзя́жны, валацýжны

**vague** [veɪg] adj. няпэ́ўны, неазнáчаны; няя́сны, невырáзны: ***a vague shape*** невырáзная фóрма; ***a vague statement*** няя́сная зая́ва

**vain** [veɪn] adj. 1. ганары́сты, зазнáйлівы. 2. дарэ́мны, мáрны; бескары́сны: ***She made vain attempts to reach her sister by telephone*** Янá рабíла дарэ́мныя намагáньні дазванíцца да сястры́. 3. пусты́, беспадстáўны: ***a vain boast*** пустóе самахвáльства
• ***in vain*** дарэ́мна, дармá; мáрна, бескары́сна

**vainly** [ˈveɪnli] adv. 1. дарэ́мна, дармá, мáрна. 2. ганары́ста; з зазнáйствам

**valance** [ˈvæləns] n. валя́н -á *m.*, брыж -á *m.*, фальбóна *f.*

**valence** [ˈveɪləns] or **valency** [ˈveɪlənsi] n. **-cies** Chem. вáртаснасьць, валéнтнасьць *f.*

**Valentine's Day** Дзень Сьвятóга Валянты́на

**valerian** [vəˈlɪrɪən] n., Med. 1. валяр'я́навыя крóплі, валяр'я́нка *f.* 2. Bot. валяр'я́н -у *m.*

**valet** [væˈleɪ] – n. 1. слуг|á -í, камэрды́нэр -а *m.* 2. гатэ́льны прыслýжнік (*які́ чы́сьціць абó прасýе вóпратку*)
– v.i. прыслýжваць, быць камэрды́нэрам
• ***valet parking*** паркавáньне з абслýгай

**Valhalla** [vælˈhælə] n. Валгáла *f.*

**valiant** [ˈvæljənt] adj. мýжны; адвáжны: ***a valiant soldier*** мýжны жаўнéр; ***a valiant deed*** адвáжны ўчы́нак

**valid** [ˈvælɪd] adj. 1. вáжкі: ***a valid argument*** вáжкі дóвад. 2. чы́нны, які́ мáе сíлу, дзейнíчае, абавя́звае: ***The contract is valid*** Кантрáкт мáе сíлу. 3. вáжны: ***The ticket is valid for a month*** Білéт вáжны на мéсяц

**validate** [ˈvælɪdeɪt] v.i. 1. узакóньваць. 2. пацьвярджáць

**validity** [vəˈlɪdəti] n., pl. **-ties** 1. вáжнасьць, вáжкасьць, абгрунтавáнасьць *f.*: ***the validity of an argument*** вáжкасьць аргумэ́нту; ***the validity of an agreement*** вáжнасьць пагаднéньня. 2. закóннасьць *f.* 3. прававáя дзéйнасьць, сíла (*дамóвы, закóну*)

**valise** [vəˈli:s] n. валíза *f.*, саквая́ж, чамадáн -а *m.*

**valley** [ˈvæli] n., pl. **-leys** далíна *f.*

**valor** or **valour** [ˈvælər] n. мýжнасьць, адвáга *f.*

**valorous** [ˈvælərəs] adj. мýжны; адвáжны

**valse** [vɑ:ls] n. *гл.* **waltz**

**valuable** [ˈvæljəbəl] adj. вáртасны; каштóўны

**valuables,** pl. каштóўнасьці

**valuation** [ˌvæljuˈeɪʃən] n. 1. ацэ́нка *f.* 2. ацэ́ньваньне *n.*

**value** [ˈvælju:] – n. 1. вáртасьць, каштóўнасьць; кары́снасьць; вáжнасьць *f.*: ***the value of education*** вáжнасьць адукáцыі. 2. кошт -у *m.*, цанá *f.*: ***total value*** агýльны кошт. 3. пакýпная здóльнасьць; вáртасьць: ***The value of the ruble has varied greatly*** Вáртасьць рубля́ мóцна зьмянíлася. 4. ацэ́нка вáртасьці, усталявáньне цаны́: ***He placed a value on his furniture*** Ён вы́значыў цанý на сваю́ мэ́блю. 5. значэ́ньне, знáчаньне *n.*: ***the value of a symbol*** значэ́ньне сы́мбалю. 6. Mus. даўжыня́ нóты
– v.t. 1. ацэ́ньваць: ***The land is valued at ten thousand dollars*** Зямля́ ацэ́неная на дзéсяць ты́сячаў даля́раў. 2. высóка ценíць: ***to value one's judgment*** высóка цанíць чыю́ дýмку
• ***values,*** pl. вáртасьці, ідэáлы

**valued** [ˈvælju:d] adj. 1. ацэ́нены. 2. высóка цэ́нены

**valueless** [ˈvæljuləs] adj. бязва́ртасны
**valve** [vælv] – n. 1. кла́пан -а, вэ́нтыл|ь -я *m.* 2. Mus. кла́пан -а, вэнты́л|ь -я, пісто́н -а *m.* (*у музы́чных інструмэ́нтах*). 3. Brit. электро́нная ля́мпа (*у ра́дыё*)
– v.t. рэгулява́ць кла́панам
**vamp I** [væmp] – n. 1. пе́рад -а *m.*, саю́зка *f.* (*у абу́тку*). 2. ла́тка *f.* (*на во́працы*). 3. Mus. імправізава́ны акампанемэ́нт
– v.t. 1. прышыва́ць перады́ (*да абу́тку*). 2. ла́таць. 3. імправізава́ць акампані́ямэнт
***• vamp up*** а) падпра́віць, паднаві́ць, падрамантава́ць. б) вы́думаць, уве́сьці ў зман
**vamp II** [væmp] – n., Sl. спаку́сьніца *f.*
– v.t. спакуша́ць з мэ́тай вы́карыстаць
**vampire** [ˈvæmpaɪr] n. 1. вампі́р -а *m.* 2. крывасмо́к -а *m.*
**van I** [væn] n. аванга́рд -у *m.*
***• be in the van*** быць у аванга́рдзе
**van II** [væn] n. 1. фурго́н -а *m.* 2. мініаўто́бус, ра́фік -а *m.* 3. бага́жны ваго́н у цягнікý
**vandal** [ˈvændəl] – n. ванда́л, ва́рвар -а *m.*
– adj. ванда́льскі, ва́рварскі
***• Vandals*** ванда́лы
**vandalism** [ˈvændəlɪzəm] n. вандалі́зм -у *m.*
**vane** [veɪn] n. 1. крыло́ *n.* (*ветрака́, вэнтыля́тара*). 2. ло́пасьць вінта́ (*самалёта або́ параплáва*). 3. флю́гер -а *m.*
**vanilla** [vəˈnɪlə] n., pl. **-las** вані́ль *f.*
**vanish** [ˈvænɪʃ] v.i. зьніка́ць, прапада́ць; гі́нуць
**vanished** [ˈvænɪʃt] adj. зьні́клы
**vanishing** [ˈvænɪʃɪŋ] n. зьніка́ньне, зьнікне́ньне *n.*
***• vanishing point*** пункт зьнікне́ньня
**vanity** [ˈvænəti] n., pl. **-ties** 1. пыхлі́васьць, ганары́стасьць *f.* 2. самалю́бства *n.* 3. бескары́сная *або́* бязва́ртасная рэч. 4. бескары́снасьць *f.* (*нагáньняў*); неэфэкты́ўнасьць (*мэ́таду*). 5. туале́тны сто́лік
***• vanity case*** туале́тная су́мачка
**vanquish** [ˈvæŋkwɪʃ] v.t. перамага́ць, пераадо́льваць
**vapid** [ˈvæpɪd] adj. 1. бяз сма́ку, прэ́сны. 2. Figur. ну́дны; вя́лы: ***vapid conversation*** вя́лая гу́тарка
**vapor**, Brit. **vapour** [ˈveɪpər] – n. 1. па́ра *f.* 2. выпарэ́ньне *n.*, тума́н -у *m.* 3. Figur. пуста́я фанта́зія
– v.i. 1. парава́ць. 2. выпара́цца. 3. Figur. выхваля́цца, хвалі́цца
**vaporize** [ˈveɪpəraɪz] – v.t. выпара́ць
– v.i. 1. выпара́цца. 2. Figur. зьніка́ць
**vaporizer** [ˈveɪpəraɪzər] n. выпа́рнік -а *m.*
**vaporous** [ˈveɪpərəs] adj. 1. па́равы; імглі́сты. 2. па́рападо́бны. 3. Figur. міну́чы; ма́рны: ***vaporous dreams of grandeur*** ма́рныя сны аб ве́лічы
**vapory** [ˈveɪpəri] adj., *гл.* **vaporous**
**variability** [ˌverɪəˈbɪləti] n. 1. зьме́нлівасьць *f.* 2. нястáласьць, няўсто́йлівасьць *f.*
**variable** [ˈveriəbəl] – adj. 1. зьме́нны, зьме́нлівы: ***variable winds*** зьме́нныя вятры́. 2. пераме́нлівы, няўсто́йлівы. 3. пераме́нны, які́ мо́жна зьмяні́ць
– n. Math. зьме́нная велічыня́
**variance** [ˈveriəns] n. 1. ро́зьніца *f.*, разыхо́джаньне *n.* 2. засьцяро́га, нязго́да *f.*; спрэ́чка *f.*: ***to yield without variance*** саступі́ць без засьцяро́гі. 3. зьме́на *f.* 4. Law разыхо́джаньне, несупадзе́ньне *n.*
***• be at variance with*** а) не згаджа́цца з *кім-чым.* б) быць у нязго́дзе з *кім-чым*
**variant** [ˈveriənt] – adj. ро́зны; зьме́нлівы, нястáлы: ***variant results*** ро́зныя вы́нікі.
– n. 1. ро́зная фо́рма, разнаві́днасьць *f.* 2. варыя́нт -у *m.*
**variation** [ˌveriˈeɪʃən] n. 1. зьме́на *f.* 2. зьмяне́ньне *n.* 3. зьме́неная фо́рма,

варыя́нт -у *m.* 4. Biol., Mus. варыя́цыя *f.*

**varicose** [ˈværəkous] adj. варыко́зны, распу́хлы, пашы́раны: ***varicose veins*** варыко́зныя ве́ны

**varicosity** [ˌværəˈkɑ:səti] n., pl. **-ties** варыко́знасьць *f.*

**varied** [ˈverɪd] adj. 1. разнаста́йны, разная́касны: ***a varied assortment of candies*** разнаста́йны асартымэ́нт цуке́рак. 2. зьме́нены

**variety** [vəˈraɪəti] n. **-ties** 1. разнаста́йнасьць *f.* : ***The store has a great variety of toys*** У кра́ме вялі́кая разнаста́йнасьць ца́цак. 2. разная́касьць *f.* 3. гату́н|ак -ку *m.*: ***Which variety of cake do you prefer?*** Які́ гату́нак то́рту вам больш падаба́ецца? 4. Biol. разнаві́днасьць *f.* 5. вар'етэ́ *n.*

**variety show** вар'етэ́ *n.*

**various** [ˈverɪəs] adj. 1. ро́зныя, усяля́кія: ***various opinions*** ро́зныя пагля́ды. 2. разная́кія; разнаста́йныя; шматбако́выя

**varnish** [ˈvɑ:rnɪʃ] – n. 1. ляк -у *m.*, паліту́ра *f.* 2. лякіро́ўка *f.*: ***The varnish on the table has been scratched*** Лякіро́ўка на стале́ была́ паскрэ́баная. 3. гля́н|ец -цу, бляск -у *m.*, паліту́ра *f.* 4. Figur. прыкрыццё *n.*, ма́ска *f.*: ***She covers her selfishness with a varnish of good manners*** Яна́ прыкрыва́е свой эгаі́зм ма́скай до́брых мане́раў

– v.t. лякава́ць, палі́раваць

– v.i. маскава́цца

**varsity** [ˈvɑ:rsəti] n., pl. **-ties,** Informal унівэрсытэ́цкая спарто́вая кама́нда

**vary** [ˈveri] – v.t. зьмяня́ць: ***The worker can vary the speed of the conveyer*** Рабо́чы мо́жа зьмяня́ць ху́ткасьць канвэ́ера

– v.i. 1. мяня́цца, зьмяня́цца: ***The weather varies*** Надво́р'е мяня́ецца. 2. адро́зьнівацца; ро́зьніцца: ***The stars vary in brightness*** Зо́ркі ро́зьняцца я́ркасьцю. 3. Mus. выко́нваць варыя́цыі

**vascular** [ˈvæskjələr] adj., Biol. сасу́дны, сасу́дзісты

**vase** [veɪs] n. ва́за *f.*

**vaseline** [ˈvæsəli:n] n. вазэлі́н -у *m.*

**vassal** [ˈvæsəl] – n. 1. васа́л -а *m.* 2. слуг|а́ -і́ *m.*

– adj. васа́льны

**vassalage** [ˈvæsəlɪdʒ] n. 1. васа́льны стан. 2. васа́льная зале́жнасьць. 3. зале́жнасьць *f.*; няво́ля *f.*, ра́бства *n.* 4. абша́р, які́м вало́даў васа́л

**vast** [væst] adj. 1. велічэ́зны, вялі́зны; веліза́рны: ***a vast amount of money*** вялі́зная ко́лькасьць гро́шай. 2. шыро́кі, прасто́рны, неабся́жны: ***a vast desert*** неабся́жная пусты́ня

**vastly** [ˈvæstli] adv. ве́льмі, зна́чна; у зна́чнай ступе́ні

**vaudeville** [ˈvɔ:dəvɪl] n. 1. вадэві́л|ь -ю *m.* 2. вар'етэ́ *n.*

**vault I** [vɔ:lt] – n. 1. скляпе́ньне *n.* 2. падва́л, скле́п -у *m.* 3. схо́вішча *n.* (*кашто́ўнасьцяў*), ска́рбніца. 4. пахава́льны склеп, грабні́ца *f.*

– v.t. пакрыва́ць скляпе́ньнем

• ***vault of heaven*** нябёснае скляпе́ньне, ку́пал не́ба

**vault II** [vɔ:lt] – v.i. 1. скака́ць, пераско́кваць з упо́рам. 2. скака́ць; падско́кваць

– n. скачо́к з упо́рам *або́* з шасто́м

**vaulted** [ˈvɔ:ltɪd] adj. скляпе́ністы, а́ркавы

**VCR** [ˌvi:si:ˈɑ:r] (Video Cassette Recorder) ві́дэамагнітафо́н

**veal** [vi:əl] – n. цяля́ціна *f.*

– adj. цяля́чы

**vector** [ˈvektər] n. вэ́ктар -а *m.*

**veer** [vir] – n. 1. зьме́на кіру́нку. 2. паваро́т -у *m.*

– v.i. 1. зьмяня́ць кіру́нак. 2. Figur. зьмяня́ць по́гляд, перакана́ньне

**vegetable** [ˈvedʒtəbəl] – n. 1. гаро́дніна *f.* 2. расьлі́на *f.*

– adj. 1. з гаро́дніны: ***vegetable soup*** суп з гаро́дніны. 2. расьлі́нны: ***the vegetable kingdom*** расьлі́нны сьвет

**vegetal** [ˈvedʒɪtəl] adj. расьлі́нны, гаро́днінны

**vegetarian** [ˌvedʒəˈteriən] – n. вэгетарыя́н|ец -ца *m.*

– adj. вэгетарыя́нскі: ***a vegetarian diet*** вэгетарыя́нская дыета

**vegetarianism** [ˌvedʒəˈteriənɪzəm] n. вэгетарыя́нства *n.*

**vegetate** [ˈvedʒəteɪt] v.i. расьці́, як расьлі́на; гібе́ць, марне́ць, мадзе́ць

**vegetation** [ˌvedʒəˈteɪʃən] n. 1. расьлі́ннасьць *f.* 2. вэгета́цыя *f.*: а) рост і разьвіцьцё расьлі́наў. б) ма́рнае, пусто́е існава́ньне (*чалаве́ка*)

**vegetative** [ˈvedʒəteɪtɪv] adj. 1. вэгетацы́йны (*пэры́яд*). 2. вэгетаты́ўны (*о́рганы*)

**vehemence** [ˈviːəməns] n. 1. гара́чая пачуцьцёвасьць; адда́насьць, зацятасьць *f.*; па́лкасьць. 2. сі́ла *f.*, напо́р -у *m.*; гвалто́ўнасьць *f.*

**vehement** [ˈviːəmənt] adj. 1. мо́цны, гара́чы, па́лкі. 2. адда́ны, напо́рны. 3. нястры́мны (*плач*). 4. шалёны; гвалто́ўны (*ве́цер, дождж*)

**vehicle** [ˈviːəkəl] n. 1. тра́нспартны сро́дак (*аўтамабі́ль, ваго́н, воз*): ***a space vehicle*** касьмі́чны карабе́ль. 2. сро́дак перадава́ньня: ***Language is the vehicle of thought*** Мо́ва — сро́дак перадава́ньня ду́мак. 3. правадні́к -а́ *m.* (*гу́ку, сьвятла́*). 4. Chem. раствара́льнік, распушча́льнік -у *m.*

**veil** [veɪəl] – n. 1. вуа́ль *f.*, вэ́люм -у *m.* 2. засло́на *f.*, вэ́люм -у *m.*: ***A veil of clouds hid the sun*** Вэ́люм хма́раў закры́ў со́нца

– v.t. 1. закрыва́ць; заве́шваць: ***to veil a portrait*** заве́сіць партрэ́т. 2. хава́ць, маскава́ць: ***a veiled threat*** прыхава́ная, замаскава́ная пагро́за

• ***draw (cast) a veil over*** а) апусьці́ць засло́ну. б) затаі́ць не́шта, прыхава́ць

• ***take the veil*** прыня́ць по́стрыг мана́шкі

**vein** [veɪn] – n. 1. вэ́на *f.* 2. жы́ла *f.* 3. Bot. жы́лка *f.*: ***vein of a leaf*** жы́лка або́ про́жылак на лісьце́. 3. Geol. жы́ла *f.*, про́жыл|ак -ка *m.*: ***a vein of gold*** залатано́сная жы́ла. 4. настро́|й -ю *m.*; хара́ктар -у *m.*: ***a joking vein*** жартаўлі́вы настро́й. 5. тон -у *m.*: ***comedy written in a witty vein*** камэ́дыя напі́саная ў дасьці́пным то́не.

– v.t. спаласі́ць (*бы́ццам жы́ламі*)

**veined** [veɪnd] adj. пражылкава́ты: ***veined marble*** ма́рмур з про́жылкамі

**velcro** [ˈvelcroʊ] n. ліпу́чка *f.* (*замо́к на адзе́ньні, абу́тку*)

**velocity** [vəˈlɑːsəti] n., pl. **-ties** ху́ткасьць *f.*: ***to fly with the velocity of a bird*** ляце́ць з ху́ткасьцю пту́шкі; ***the velocity of light*** ху́ткасьць сьвятла́

**velour** *or* **velours** [vəˈlʊr] n. вэлю́р -у *m.*

**velum** [ˈviːləm] n., pl. **-la**, Anat. мя́ккае паднябе́ньне

**velvet** [ˈvelvɪt] – n. 1. аксамі́т, мо́шаст -у *m.* 2. Sl. чы́сты прыбы́так або́ вы́йгрыш. 3. Sl. гро́шы, вы́йграныя ў аза́ртнай гульні́

– adj. 1. машасто́вы, аксамі́тны: ***She has a velvet hat*** Яна́ ма́е аксамі́тны капялю́ш; ***velvet petals*** машасто́выя пялёсткі

• ***play on velvet*** рызыкава́ць або́ спэкулява́ць за вы́йграныя гро́шы

**velveteen** [ˌvelvəˈtiːn] n. вэльвэты́н -у *m.*

**velvety** [ˈvelvəti] adj. аксамі́тны, як аксамі́т

**venal** [ˈviːnəl] adj. 1. прада́жны. 2. падку́пны

**venality** [viːˈnæləti] n. прада́жніцтва, ха́барніцтва *n.*

**vendor** or **vender** [ˈvendər] n. 1. прада|ве́ц -ўца́ *m.* 2. дро́бны гандля́р

**veneer** [vəˈnɪr] – v.t. 1. абліцо́ўваць, фанерава́ць: ***to veneer a pine desk with oak*** абліцава́ць хваёвы пісьмо́вы стол дубо́вай фане́рай. 2. паліва́ць (*по́суд*)

– n. 1. фане́ра *f.* 2. абліцо́ўка *f.*: ***a veneer of ivory*** абліцо́ўка са слано́вае касьці́. 2. Figur. во́нкавы вы́гляд; пака́з наво́нкі: ***a veneer of piety*** паказна́я пабо́жнасьць

**venerable** [ˈvenərəbəl] adj. 1. го́дны пашáны, глыбóкапаважáны; шанóўны. 2. старадáўны, вякáмі шанавáны: ***venerable customs*** старыя, вякáмі шанавáныя звычаі. 3. дастóйны (*тытул духóўнай асóбы*). 4. прападóбны

**venerate** [ˈvenəreɪt] v. шанавáць, паважáць

**veneration** [ˌvenərˈeɪʃən] n. шанавáньне *n.*; глыбóкая пашáна, павáга *f.*

**venereal** [vəˈnɪriəl] adj. вэнэрычны: ***a venereal disease*** вэнэрычная хварóба

**Venetian** [vəˈniːʃən] adj. вэнэцыянскі

**Venetian blind** жалюзі *indecl.*

**Venezuelan** [ˌvənəˈzweɪlən] – adj. вэнэсуэ́льскі

– n. вэнэсуэ́лец -льца *m.*, вэнэсуэ́лка *f.*

**vengeance** [ˈvendʒəns] n. пóмста *f.*, адплáта за зло

• ***take vengeance on*** or ***upon*** пóмсьціцца на *кім*

• ***with a vengeance*** зь вялíкай сíлай, гвалтóўна

**vengeful** [ˈvendʒfəl] adj. 1. пóмсьлівы, мсьцíвы. 2. прáгны пóмсты: ***vengeful enemies*** вóрагі, прáгныя пóмсты

**vengefulness** [ˈvendʒfəlnəs] n. пóмсьлівасьць, мсьцíвасьць *f.*

**venison** [ˈvenɪsən] n. 1. алéніна *f.* 2. дзічына *f.*

**venom** [ˈvenəm] n. 1. яд (*гадзю́каў, павукóў, пчóлаў*). 2. атрýта *f.* 3. Figur. злосьць, зьéдлівасьць *f.*

**venomous** [ˈvenəməs] adj. 1. ядавíты; атрýтны. 2. зласьлíвы; зьéдлівы

**venous** [ˈviːnəs] adj., Anat. жыльны, вэнóзны: ***venous blood*** вэнóзная кроў. 2. жылкавáты: ***the venous leaves*** жылкавáтыя лісьці

**vent I** [vent] – n. 1. адтýліна, аддýшына *f.* (*для вэнтыляцыі*). 2. выпуск, выхад -у *m.* 3. Figur. выяўлéньне *n.*: ***She gave vent to her grief in tears*** Янá выліла сваё гóра сьлязьмí

– v.t. выпушчáць; выяўляць: ***He vented his anger on the dog*** Ён спагнáў сваю́ злосьць на сабáку; ***to vent a grievance*** выказаць крыўду

**vent II** [vent] n. разрэ́з -у *m.* (*у вóпратцы*)

**ventage** [ˈventɪdʒ] n. 1. адтýліна, аддýшына *f.* 2. клáпан -а *m.* (*духавóга інструмэ́нта*)

**ventilate** [ˈventəleɪt] v. 1. вэнтылявáць, правéтрываць: ***We ventilate a room by opening windows*** Мы правéтрываем пакóй, адчыняючы вóкны. 2. рабíць агýльна вядóмым; адкрыта разглядáць, дыскутавáць

**ventilation** [ˌventəˈleɪʃən] n. вэнтыляцыя *f.*, правéтрываньне *n.*

**ventilator** [ˈventəleɪtər] n. вэнтылятар -а *m.*

**ventral** [ˈventrəl] adj. брушны: ***a ventral fin*** брушны плáўнік

**venture** [ˈventʃər] – n. 1. рызыкóўная задýма. 2. спэкуляцыя *f.* 3. прыгóда *f.* 4. камэрцыйнае мерапрыéмства

– v. рызыкавáць; адвáжвацца: ***No one ventured to interrupt the speaker*** Ніхтó не адвáжыўся перапынíць прамóўцу; ***He ventured out on the thin ice and fell through*** Ён рызыкнýў пайсьцí на тóнкі лёд і праваліўся

– adj. рызыкóўны, якíм рызыкýеш: ***venture capital*** рызыкóўная інвэстыцыя (*у нóвае прадпрыéмства*)

• ***at a venture*** наўгáд

• ***Nothing ventured, nothing gained*** Баўкá баяцца, у лес не хадзíць

**venturesome** [ˈventʃərsəm] adj. 1. рызыкóўны, неразвáжны. 2. адвáжны

**venturous** [ˈventʃərəs] adj. *гл.* **venturesome**

**Venus** [ˈviːnəs] n. Вэнэ́ра *f.*

**veracious** [vərˈeɪʃəs] adj. 1. праўдзíвы, праўдалю́бны. 2. згóдны з прáўдай

**veracity** [vərˈæsəti] n., pl. **-ties** 1. праўдзíвасьць *f.* 2. прáўда *f.* 3. прáвільнасьць, даклáднасьць *f.*

**veranda(h)** [vəˈrændə] n. верáнда *f.*

**verb** [vɜːrb] n. дзеяслóў -ва *m.*

**verbal** [ˈvɜːrbəl] adj. 1. выказаны слóвамі, слóўны: ***A description is a verbal picture*** Апісáньне — гэ́та слóўны вóбраз. 2. вýсны: ***a verbal message*** вý-

снае паведамле́ньне. 3. дасло́ўны: ***a verbal translation*** дасло́ўны перакла́д. 4. дзеясло́ўны: ***verbal endings*** дзеясло́ўныя канча́ткі

**verbose** [vɜːrˈboʊs] adj. 1. шматсло́ўны. 2. гаварлі́вы, гаваркі́

**verbosity** [ˌvɜːrˈbɑːsəti] n. шматсло́ўнасьць; гаварлі́васьць *f.*

**verdict** [ˈvɜːrdɪkt] n. 1. прысу́д прысяжны́х, вэрды́кт -у *m.*: ***a verdict of "Not guilty"*** прысу́д «Не вінава́ты». 2. пастано́ва *f.*, рашэ́ньне *n.*

**verdigris** [ˈvɜːrdəgrɪs] n. 1. во́кіс ме́дзі. 2. мядзя́нка *f.* (*фа́рба*)

**verge** [vɜːrdʒ] – n. 1. край́ -ю *m.*; мяжа́ *f.*: ***to be on the verge of ruin*** быць на мяжы́ руі́ны; ***to be on the verge of tears*** быць блі́зкім да пла́чу. 2. рубе́ж -яжа́ *m.*

– v.i. быць на краі́; межава́ць

**verifiable** [ˈverɪfaɪəbəl] adj. які́ мо́жна праве́рыць

**verification** [ˌverɪfɪˈkeɪʃən] n. 1. праве́рка *f.* 2. пацьве́рджаньне *n.* 3. спра́ўджаньне *n.*

**verify** [ˈverɪfaɪ] v.t. **-fied, -fying** 1. правяра́ць. 2. Law пацьвярджа́ць

**veritable** [ˈverətəbəl] adj. праўдзі́вы, сапра́ўдны; рэчаі́сны

**verity** [ˈverəti] n., pl. **-ties** 1. пра́ўда *f.* 2. праўдзі́васьць *f.* 3. і́сьціна *f.*

**vermicelli** [ˌvɜːrmɪˈtʃeli] n. вэрмішэ́ль *f.*

**vermicide** [ˈvɜːrmɪsaɪd] n. глістаго́нны сро́дак; глі́сьнік -у *m.*

**vermiform** [ˈvɜːrməfɔːrm] adj. чэрвепадо́бны

**vermin** [ˈvɜːrmən] n., pl. or sing. 1. паразы́ты (*бло́хі, блашчы́цы, во́шы*). 2. шко́днікі (*пацукі́ й мы́шы*). 3. нікчэ́мны чалаве́к; збро́д -у *m.*

**vernacular** [vərˈnækjələr] – n. мясцо́вая мо́ва

– adj. мясцо́вы (*пра мо́ву, гаво́рку*)

**versatile** [ˈvɜːrsətəl] adj. 1. шматбако́вы; разнаста́йны: ***a versatile man*** чалаве́к са шматбако́вым та́лентам. 2. рухо́мы. 3. зьме́нлівы, няўсто́йлівы

**verse** [vɜːrs] n. 1. верш -а *m.* 2. радо́к ве́рша. 3. страфа́ *f.* 4. верш -а *m.* (*у Бі́бліі*)

**versify** [ˈvɜːrsɪfaɪ] v.i. 1. піса́ць ве́ршы. 2. гавары́ць ве́ршам. 3. вершава́ць

**version** [ˈvɜːrʒən] n. вэ́рсія *f.*, варыя́нт -у *m.*

**versus** [ˈvɜːrsəs] prep. супро́ць, су́праць; у параўна́ньні з *чым*

**vertebra** [ˈvɜːrtɪbrə] – n., pl. **-brae** хрыбе́тка *f.*; пазванlо́к -ка *m.*

– adj. хрыбе́тны

**vertebral** [ˈvɜːrtɪbrəl] adj. 1. хрыбто́вы. 2. скла́дзены з хрыбе́так

**vertebral column** сьпі́нны хрыбе́т, хрыбе́тнік -а *m.*

**vertebrate** [ˈvɜːrtɪbrət] – n. хрыбе́тная жывёліна

– adj. хрыбе́тны

**vertex** [ˈvɜːrteks] n., pl. **-texes** or **-tices** 1. найвышэ́йшы пункт, верхаві́на, вярша́ліна *f.* 2. Anat. ма́каўка *f.* (*галавы́*). 3. зэні́т -у *m.*

**vertical** [ˈvɜːrtɪkəl] – adj. 1. вэртыка́льны, прастаста́ўны, сто́цьны, старча́вы, 2. у зэ́ніце

– n. вэртыка́ль *f.*, прастаста́lў -ву *m.*

**vertically** [ˈvɜːrtɪkəli] adv. вэртыка́льна, прастаста́ўна, старчма́, старчако́м, сто́цьма

**vertices** [ˈvɜːrtɪsiːz] n., *pl. of* **vertex**

**verve** [vɜːrv] n. энтузія́зм -у *m.*; энэ́ргія *f.*; бадзёрасьць, жыццёвасьць *f.*

**very** [ˈveri] – adv. 1. на́дта, ве́льмі: ***very hot*** на́дта гара́чы. 2. дакла́дна: ***in the very same place*** дакла́дна на тым са́мым ме́сцы

– adj. 1. то́й са́мы: ***The very people who used to love her now hate her*** Ты́я са́мыя лю́дзі, што не́калі яе́ любі́лі, цяпе́р ненаві́дзяць яе́. 2. сам, са́мы: ***The very thought of blood makes her sick*** Ад само́е ду́мкі пра кроў ёй ро́біцца бла́га; ***He was caught in the very act of stealing*** Яго́ злаві́лі на са́мым учы́нку крадзяжу́. 3. на́ват: ***The very look betrayed him*** На́ват яго́ны вы́гляд выдава́ў яго́. 4.

якра́з то́е: ***The very thing I need*** Якра́з то́е, што мне трэ́ба

**vesicate** [ˈvesɪkeɪt] v. нарыва́ць

**vesicle** [ˈvesɪkəl] n., Anat., Bot. нары́лў -ва *m.*, прышч -а́ *m.* (*на це́ле*)

**vesper** [ˈvespər] n. 1. вячэ́рня *f.* 2. вячэ́рні звон

• ***Vesper*** Вячэ́рняя зо́рка

• ***vespers*** не́шпары *pl. only*

**vessel** [ˈvesəl] n. 1. вадапла́ў -ва *m.* 2. судзі́на, пасу́дзіна *f.* 3. крывяно́сны сасу́д

**vest** [vest] – n. 1. камізэ́лька *f.* 2. падкашу́лька *f.* 3. царко́ўныя ры́зы

– v.t. 1. апрана́ць афіцы́йны ўбо́р, сьвята́рскія ры́зы. 3. надава́ць права: ***Parliament is vested with power to declare war*** Парлямэ́нту нада́дзена пра́ва абвяшча́ць вайну́

**vestal** [ˈvestəl] – n. 1. вэста́лка *f.* 2. цнатлі́віца *f.* 3. мана́шка *f.*

– adj. 1. вэста́льскі. 2. чы́сты; цнатлі́вы, нявінны

**Vestal Virgin** вэста́лка *f.*

**vested** [ˈvestɪd] adj. 1. укла́дзены, замацава́ны зако́нам: ***vested rights*** правы́, замацава́ныя зако́нам. 2. апра́нуты ў ша́ты: ***a vested choir*** хор у ша́тах

**vested interest** 1. асабі́стае зацікаўле́ньне, інтэ́рас. 2. зако́нам замацава́нае пра́ва, кары́сьць

**vestibule** [ˈvestɪbju:l] n. 1. вэстыбю́лль -я *m.* 2. ваго́нны та́мбур

**vestige** [ˈvestɪdʒ] n. сьлед -у *m.*, рэ́шткі *pl.*; прыкме́та *f.*, знак: ***not a vestige of evidence*** ані́якага до́ваду

**vestment** [ˈvestmənt] n. 1. убо́р -у *m.*, ша́ты. 2. сьвята́рская ры́за

**vetch** [vetʃ] n. ві́ка *f.*

**veteran** [ˈvetərən] – n. вэтэра́н -а *m.*

– adj. дасьве́дчаны: ***a veteran lawyer*** дасьве́дчаны пра́ўнік

**veterinarian** [ˌvetərəˈneriən] n. вэтэрына́р -а *m.*

**veterinary** [ˈvetərəneri] – adj. вэтэрына́рны.

– n. вэтэрына́р -а *m.*

**veterinary medicine** вэтэрына́рыя *f.*

**veto** [ˈvi:toʊ] – n., pl. **-toes** 1. вэ́та, *n., indecl.* 2. пра́ва вэ́та

– v.t. 1. наклада́ць вэ́та. 2. не дазваля́ць, не дава́ць зго́ды: ***His parents vetoed his plan to buy a motorcycle*** Яго́ныя бацькі́ не далі́ зго́ды купі́ць матацы́кл

• ***veto power*** пра́ва вэ́та

**vex** [veks] v.t. 1. назаля́ць; злава́ць, раздражня́ць. 2. выклі́ка́ць, узбуджа́ць, правакава́ць (*сва́рку*). 3. непако́іць, турбава́ць

**vexation** [vekˈseɪʃən] n. 1. назаля́ньне, злава́ньне *n.*; раздра́жненасьць *f.*: ***His face showed his vexation*** На тва́ры ў яго́ вы́явілася раздражне́ньне. 2. пры́красьць *f.*; расчарава́ньне *n.*: ***Rain on Sunday was a vexation to the children*** Дождж у нядзе́лю вы́клікаў у дзяце́й расчарава́ньне

**vexatious** [vekˈseɪʃəs] adj. даку́члівы, назо́йлівы

**via** [ˈvaɪə] prep. праз, шля́хам

**viable** [ˈvaɪəbəl] adj. 1. жыцьцязда́льны. 2. Figur. здаро́вы: ***a viable economy*** здаро́вая экано́міка. 3. дастатко́ва разьві́ты

**viaduct** [ˈvaɪədʌkt] n. віяду́к -а *m.*; мост маста́ *m.*

**vial** [ˈvaɪəl] n. фляко́н, фляко́нчык -а *m.*

**vibrant** [ˈvaɪbrənt] adj. 1. які́ вібру́е; які́ дае́ рэзана́нс. 2. Figur. жва́вы, прамяні́сты: ***a vibrant personality*** прамяні́сты хара́ктар

**vibrate** [ˈvaɪbreɪt] – v.i. 1. вібрава́ць: ***A piano string vibrates and makes a sound when a key is struck*** Калі́ наці́снуць на кля́вішу піяні́на, струна́ вібру́е і выдае́ гук. 2. гайда́цца, ківа́цца. 3. дрыжэ́ць, трымце́ць. 4. гучэ́ць: ***The clanging vibrated in his ears*** Бра́згат гучэ́ў у яго́ ў вушах. 5. Figur. вага́цца, хіста́цца

– v.t. 1. выклі́ка́ць хіста́ньне, дрыжэ́ньне, вібра́цыю. 2. адме́рваць час хіста́ньнем: ***A pendulum vibrates seconds*** Ма́ятнік адме́рвае сэку́нды

**watchfulness** [ˈwɑ:tʃfəlnəs] n. пільнасьць, чу́йнасьць, ува́жлівасьць *f.*
**watchmaker** [ˈwɑ:tʃˌmeɪkər] n. гадзі́ншчык -а *m.*, гадзі́ньнікавы ма́йстар
**watchman** [ˈwɑ:tʃmən] n., pl. **-men** вартаўні́к -а́ *m.*
**watchtower** [ˈwɑ:tʃˌtaʊr] n. вартаўні́чая ве́жа
**watchword** [ˈwɑ:tʃwɜ:rd] n. 1. паро́л|ь -ю *m.* 2. эпі́граф -у *m.*; кліч -у *m.*: ***"Forward" is our watchword*** «Напе́рад» — наш кліч
**water** [ˈwɔ:tər] – n. 1. вада́ *f.* 2. ва́дкасьць. 3. мо́ра, во́зера *n.*; рака́ *f.*: ***high*** or ***low water*** высо́кі *або́* ні́зкі ўзро́вень вады́. 4. паве́рхня вады́: ***to swim under water*** пла́ваць пад вадо́ю
– v.t. 1. спы́рскваць, паліва́ць. 2. забясьпе́чваць вадо́ю: ***Belarus is well watered by rivers and lakes*** Белару́сь до́бра забясьпе́чаная вадо́ю рэ́чак і азёраў. 3. набіра́ць запа́с вады́: ***The ship waters before sailing*** Вадапла́ў набіра́е запа́с вады́ пе́рад пла́ваньнем. 4. сьлязі́цца: ***Her eyes watered*** Ейныя во́чы напо́ўніліся сьлязьмі́. 5. разбаўля́ць, разво́дзіць вадо́ю: ***watered milk*** разьве́дзенае вадо́ю малако́
• ***above water*** а) на паве́рхні вады́. б) Informal на плаву́
• ***by water*** во́дным шля́хам
• ***hold water*** 1. утры́мваць ваду́. 2. Figur. вы́трымаць выпрабава́ньне, праве́рку, кры́тыку
• ***like water*** як ваду́, ве́льмі неашча́дна
• ***make one's mouth water*** узбудзі́ць жада́ньне, каб сьлі́нка пацякла́
• ***make (pass) water*** мачы́цца, выдзяля́ць мачу́
• ***of the first water*** найвышэ́йшай ступе́ні *або́* я́касьці
• ***take (the) water*** пусьці́цца ўплаў
• ***take (the) waters*** піць мінэра́льную ваду́ (*на куро́рце*)
• ***water down*** зьмя́кчыць, зрабі́ць слабе́йшым
• ***waters,*** pl. 1. во́ды *pl.* 2. во́дная паве́рхня (*мо́ра, ракі́*). 3. во́дная плынь
**water bed** ло́жак з вадзяны́м матра́сам
**water bird** вадзяна́я пту́шка
**water blister** вадзяны́ мазо́ль, вадыр -а́ *m.*
**water-borne** [ˈwɔ:tərbɔ:rn] adj. 1. які́ плыве́ па вадзе́, плыву́чы. 2. водатра́нспартны. 3. які́ разно́сіцца вадо́ю (*напр. бактэ́рыі*)
**water clock** вадзяны́ гадзі́ньнік
**water closet** прыбіра́льня *f.*, туале́т -у *m.*
**water color** акварэ́ль *f.* (*фа́рба, малю́нак*)
**waterfall** [ˈwɔ:tərfɔ:l] n. вадаспа́д -у *m.*
**waterfowl** [ˈwɔ:tərfaʊl] n., pl. **-fowls** or coll. **fowl** вадзяна́я пту́шка
**waterfront** [ˈwɔ:tərfrʌnt] n. 1. парто́вы раён. 2. узьбярэ́жжа *n.*
**water gap** го́рная цясьні́на
**water gate** 1. шлюз -а *m.* 2. варо́ты шлю́за
**watering can** *or* **pot** паліва́чка *f.*
**watering hole,** Informal папуля́рны бар *або́* начны́ клюб
**watering place** 1. во́ды *pl.*; куро́рт зь мінэра́льнымі во́дамі. 2. вадапо́|й -ю *m.*
**waterless** [ˈwɔ:tərləs] adj. бязво́дны
**water level** 1. узро́вень вады́. 2. ватэрпа́с -а *m.*
**water lily,** Bot. вадзяна́я ліле́я, гарла́чык -а *m.*
**water main** вадаправо́дная магістра́ль
**watermark** [ˈwɔ:tərmɑ:rk] n. 1. адзна́ка ўзро́ўню вады́. 2. вадзяны́ знак (*на папе́ры*)
**water meadow** заліўны́ луг, по́плаļў -ву *m.*
**watermelon** [ˈwɔ:tərˌmelən] n. каву́н -а́ *m.*
**water mill** вадзяны́ млын
**water moccasin** бало́тная вадзяна́я ядаві́тая *або́* зьмяя́
**water nymph** руса́лка *f.*
**water polo,** Sport. ватэрпо́ла *n.*
**water power** гідраэнэ́ргія *f.*
**waterproof** [ˈwɔ:tərpru:f] adj. воданепрані́кальны, непрамака́льны

**water rat** 1. вадзяны́ пацу́к. 2. хаху́ля *f.*

**water-repellent** [ˌwɔ:tərrɪˈpelənt] adj. непрамака́льны

**water-resistant** [ˈwɔ:tərrɪˌzɪstənt] adj. непрамака́льны, вадасто́йкі

**watershed** [ˈwɔ:tərʃed] n. 1. во́дападзе́л -у *m.* 2. рачны́ басэ́йн

**waterside** [ˈwɔ:tərsaɪd] n. узьбярэ́жжа *n.*

**water ski** во́дная лы́жа

**waterski** [ˈwɔ:tərski:] v.i. е́зьдзіць на во́дных лы́жах

**water snake** вадзяна́я зьмяя́

**water-soak** [ˈwɔ:tərsoʊk] v.t. намо́чваць; мачы́ць

**water softener** сро́дак для зьмякча́ньня вады́

**waterspout** [ˈwɔ:tərspaʊt] n. 1. вадасьцёкавая ры́на. 2. вадзяны́ сьмерч

**water table** узро́вень грунтаво́й вады́

**watertight** [ˈwɔ:tərtaɪt] adj. 1. воданепраніка́льны. 2. Figur. ца́лкам абгрунтава́ны: ***a watertight argument*** ца́лкам абгрунтава́ны до́вад

**water tower** во́данапо́рная ве́жа

**waterway** [ˈwɔ:tərweɪ] n. 1. во́дны шлях. 2. па́лубны сьцёк

**water wheel** вадзяно́е ко́ла

**waterworks** [ˈwɔ:tərwɜ:rks] n., pl. 1. во́даправо́дная ста́нцыя; во́даправо́дная се́тка. 2. по́мпавая ста́нцыя. 3. Sl. рапто́ўны, нястры́мны вы́бух пла́чу

**watery** [ˈwɔ:təri] adj. 1. вадзяны́; мо́кры: ***watery soil*** мо́края глеба. 2. які́ пака́звае на дождж: ***a watery sky*** не́ба, яко́е пака́звае на дождж. 3. сьлязьлі́вы: ***watery eyes*** во́чы, якія сьлязя́цца. 4. вадзяні́сты, рэ́дкі: ***watery soup*** вадзяні́сты суп

• ***watery blue*** вадзяні́ста-сі́ні

**watt** [wɑ:t] n., Electr. ват -а *m.*

**watt-hour** [ˌwɑ:tˈaʊr] n. ват-гадзі́на *f.*

**wattmeter** [ˈwɑ:tˌmi:tər] n. ватмэ́тlap -ра *m.*

**wave** [weɪv] – n. 1. хва́ля *f.* 2. Phys. хва́ля, вібра́цыя *f.* 3. Figur. хва́ля *f.*, напльі́lў -ву *m.*: ***a wave of enthusiasm*** хва́ля ўзды́му; ***a cold wave*** хало́дная хва́ля, хва́ля хало́днага паве́тра. 4. маха́ньне *n.*: ***a wave of the hand*** маха́ньне, знак руко́ю. 5. ку́дзер -а. ло́кан -а *m.*

– v.i. 1. хвалява́цца, калыха́цца: ***The reeds waved in the breeze*** Чаро́т хвалява́ўся ад паве́ваў ве́трыку. 2. кучара́віцца: ***Her hair waves naturally*** Ейныя валасы́ натура́льна кучара́выя

– v.t. 1. накру́чваць, завіва́ць: ***to wave hair*** заві́ць валасы́. 2. махаць, дава́ць знак (*руко́ю*): ***to wave a car to halt*** спыні́ць а́ўта ма́хам рукі; ***to wave a good-by*** маха́ць руко́ю на разьвіта́ньне; ***She waved him away*** Яна́ адпра́віла яго́ ма́хам рукі́. 3. пагража́льна маха́ць: ***He waved the stick at them*** Ён пагразі́ў ім кі́ем

• ***make waves*** рабі́ць шумі́ху

• ***wave aside*** адмахну́цца; адмахну́ць, адхілі́ць

**wavelength** [ˈweɪvleŋθ] даўжыня́ хва́лі

**waveless** [ˈweɪvləs] adj. бяз хва́ляў, спако́йны

**waver** [ˈweɪvər] – v.i. 1. калыха́цца, хіста́цца. 2. мігаце́ць, мігце́ць: ***a wavering light*** мігатлі́вае сьвятло́. 3. вага́цца, хіста́цца: ***My courage wavered*** Мая́ адва́га пахісну́лася

– n. 1. мігаце́ньне, мігце́ньне, хіста́ньне *n.* 2. вага́ньне *n.*

**wavy** [ˈweɪvi] adj. 1. кучара́вы. 2. хва́лісты

**wax I** [wæks] – n. 1. воск -у *m.* 2. пара-фі́н -у *m.* 3. ва́кса *f.*

– v.t. васкава́ць

– adj. васко́вы

**wax II** [wæks] v.i. **waxed, waxed** or (poet.) **waxen, -ing** 1. павялі́чвацца, прыбыва́ць: ***The moon waxes till it becomes full*** Ме́сяц павялі́чваецца, паку́ль ня до́йдзе да по́ўні. 2. рабі́цца, станаві́цца: ***to wax angry*** раззлава́цца; ***The party waxed merry*** Кампа́нія разьвесялі́лася

**waxen** [ˈwæksən]adj. 1. васко́вы, з во́ску. 2. гла́дкі й бле́дны, як воск (*пра*

*кóлер твáру*). 3. наваскавáны; навак-саваны

**wax paper** or **waxed paper** васкавáная папéра

**waxy** [ˈwæksi] adj. 1. як воск. 2. васкó-вы. 3. васкавáны

**way** [weɪ] n. 1. дарóга *f.*, шлях -у *m.*; сьцéжка *f.*: ***a way through the forest*** дарóга празь лес. 2. спóсаб, мэ́тад -у *m.*: ***new ways of preventing disease*** нóвыя мэ́тады прадухілéньня хварó-бы. 3. лад, уклáд -у *m.*: ***way of life*** лад жыцьця́. 4. глéдзішча *n.*, пóгляд -у *m.*: ***This plan is bad in several ways*** Гэ́ты плян нядóбры пад нé-калькімі пóглядамі. 5. кіру́нlак -ку *m.*: ***which way?*** у які́ бок; куды́?; ***that way*** туды́; ***Look this way*** Глядзí сюды́. 6. ход жыцьця́, жыцьцё *n.*: ***to live in a great way*** жыць на шырó-кую нагу́

• ***be in the way*** замінáць, перашка-джáць

• ***by the way*** а) па дарóзе. б) між ін-шым, дарэ́чы

• ***by way of*** дарóгай на *што*, спóсабам *чагó*, праз *што*

• ***come*** or ***fall one's way*** надáрыцца, трáпіцца *каму*

• ***get*** or ***have one's own way*** настая́ць на сваíм

• ***give way*** а) саступíць, даць дарóгу; пахісну́цца, адступíць. б) заламáцца, паддáцца

• ***have a way with*** мець падыхóд: ***to have a way with people*** умéць абы-хóдзіцца зь людзьмí

• ***in a way*** у некатóрым сэ́нсе

• ***lead the way*** ісьці́ папéрадзе *абó* на-пéрадзе, вéсьці, пакáзваць дарóгу

• ***lose one's way*** зьбíцца з дарóгі, за-блудзíць

• ***make one's way*** а) прабíцца. б) да-сягну́ць пóсьпеху

• ***make way*** давáць дарóгу, рабíць мéсца

• ***once in a way*** час-чáсам, калí-ніка-лí

• ***out of the way*** а) з дарóгі: ***We moved the fallen tree out of the way*** Мы прыняль́ павáленае дрэ́ва з дарó-гі. б) далёка на адлю́дзьдзі. в) не-звычáйны, дзівóсны, неадпавéдны: ***to do anything out of the way*** зрабíць штó-нéбудзь неадпавéднае

• ***see one's way*** вéдаць, як зрабíць штóсьці

• ***take one's way*** ру́шыць у дарóгу

• ***this way and that way*** гэ́так і гэ́нак, сяк і так

• ***under way***: а) у дарóзе. б) у працэ́се падрыхтóўкі: ***preparations are under way*** ідзé падрыхтóўка

• ***ways***, pl. звы́чка *f.*, звы́чаlй -ю *m.*: ***It's just his way*** Гэ́та тóлькі ягóная звы́чка

• ***way off*** далёка

**waybill** [ˈweɪbɪl] n. накладнáя *f.*

**wayside** [ˈweɪsaɪd] n. абóчына *f.*

**way train** пры́гарадны цягні́к

**wayward** [ˈweɪwərd] adj. 1. наравíсты; упáрты, капры́зны. 2. нястáлы, зьмéн-лівы

**wayworn** [ˈweɪwɔːrn] adj. стóмлены, здарóжаны

**we** [wiː] pron., мы

**weak** [wiːk] adj. 1. слабы́, нямóцны: ***a weak foundation*** слабы́ падму́рак. 2. слабы́, квóлы, няду́жы; хíлы: ***a weak old man*** квóлы стары́ чалавéк; ***a weak character*** слабы́ харáктар; ***weak coffee*** слабáя кáва; ***a weak candidate*** слабы́ кандыдáт

**weaken** [ˈwiːkən] – v.t. 1. аслабля́ць. 2. рабíць слабéйшым (*напóй*)
– v.i. слабéць; слáбнуць

**weak-kneed** [ˌwiːkˈniːd] adj. 1. слабы́ (на нóгі). 2. слабасíльны

**weakling** [ˈwiːklɪŋ] – n. слабáк -á *m.*
– adj. 1. слабы́, квóлы. 2. слабавóль-ны

**weakly** [ˈwiːkli] – adv. слáба, нямóцна, квóла
– adj. слабы́, квóлы

**weakminded** [ˌwiːkˈmaɪndɪd] adj. слабы́ на рóзум

**weakness** [ˈwi:knəs] n. 1. сла́басьць, кво́ласьць, няду́жасьць *f.* 2. слабо́е ме́сца, сла́басьць *f.*: ***She has a weakness for chocolate*** У яе́ сла́басьць да шакаля́ду

**weal I** [wi:l] n. дабрабы́т -у *m.*

**weal II** [wi:l] n. рубле́ц -ца́, шрам -а *m.*

**wealth** [welθ] n. 1. бага́цьце *n.*, дабро́ *n.*; даста́т|ак -ку *m.* 2. вялі́кая ко́лькасьць: ***a wealth of words*** бага́цьце сло́ваў, бага́тая ле́ксыка

**wealthy** [ˈwelθi] adj. бага́ты, замо́жны: ***a wealthy man*** багаты́р -а́ *m.*

• ***get (grow) wealthy*** багаце́ць

**wean** [wi:n] v.t. 1. адвуча́ць (*немаўля́ ад грудзе́й*). 2. аддзяля́ць, адлуча́ць

**weapon** [ˈwepən] n. збро́я *f.*

**weaponry** [ˈwepənri] n. 1. збро́я *f.* 2. узбрае́ньне *n.*

**wear** [wer] – v.t. **wore, worn, wearing** 1. насі́ць: ***She often wears that blue dress*** Яна́ ча́ста но́сіць гэ́тую блакі́тную суке́нку; ***to wear a beard*** насі́ць бараду́. 2. зно́шваць: ***These shoes are badly worn*** Гэ́тыя чараві́кі мо́цна зно́шаныя; ***All that walking wore a hole in my shoe*** Ад усяе́ гэ́тае хадзьбы́ пратапта́ліся мае́ чараві́кі. 3. выму́чваць; змо́рваць; зьнясі́льваць: ***She was worn with toil and care*** Яна́ была́ змо́раная цяжко́й пра́цай і турбо́тамі

– v.i. 1. насі́цца, зно́швацца: ***This coat has worn well*** Гэ́тае паліто́ насі́лася до́бра; ***His coat has worn to shreds*** Яго́нае паліто́ знасі́лася да ні́ткі. 2. Figur. трыва́ць: ***a friendship that did not wear*** сябро́ўства, яко́е ня вы́трывала. 3. Figur. міна́ць, цягну́цца (*пра час*): ***It became hotter as the day wore on*** Ця́гам дня рабі́лася гарачэ́й

• ***wear down*** а) вы́мучыць; змардава́ць. б) дакана́ць

• ***wear off*** ме́ншаць; сьціра́цца, падно́швацца

• ***wear out*** а) знасі́ць. б) зужы́ць, вы́карыстаць. в) стамі́ць; змары́ць; змардава́ць, зьнясі́ліць

**weariless** [ˈwɪrɪləs] adj. нясто́мны, няўто́мны

**weariness** [ˈwɪrɪnəs] n. сто́мленасьць, сто́ма *f.*; змо́ранасьць, змо́ра *f.*

**wearisome** [ˈwɪrɪsəm] adj. стамля́льны, зьнемага́льны; ну́дны

**weary** [ˈwɪri] – adj. 1. змо́раны; сто́млены; зьнясі́лены. 2. стамля́льны, надаку́члівы: ***a weary wait*** надаку́члівае чака́ньне; ***I am weary of it*** Мне гэ́та ўсё абры́дла

– v.t. **-ried, -rying** 1. надаку́чваць. 2. стамля́ць

– v.i. 1. стамля́цца. 2. тужы́ць: ***She is wearying for home*** Яна́ ту́жыць па до́ме

**weasel** [ˈwi:zəl] – n., Zool. ла́ска, ласі́ца *f.*

– v.i. **-selled** or **-seled, -selling** or **seling** хітрава́ць

• ***weasel out*** ухілі́цца, вы́круціцца, увільну́ць

**weather** [ˈweðər] – n. надво́р'е *n.*: ***nice weather*** паго́да *f.*; ***hot weather*** гара́чае надво́р'е, гарачыня́ *f.*

– v.t. абве́трываць, пакіда́ць пятрэ́ць: ***Wood turns gray if weathered for a long time*** Дрэ́ва шарэ́е, калі́ яго нado̒ўга пакі́нуць на дварэ́

– v.i. вытры́мваць, трыва́ць: ***The ship weathered the storm*** Вадапла́ў вы́трымаў бу́ру

– adj. наве́траны: ***It was very cold on the weather side of the ship*** На наве́траным баку́ вадапла́ва было́ ве́льмі хало́дна

• ***keep one's weather eye open*** быць прыгатава́ным, трыма́ць во́ка

• ***under the weather,*** Informal а) нездаро́вы, хвараві́ты. б) нападпі́тку

**weather-beaten** [ˈweðərˌbi:tən] adj. 1. загартава́ны ве́трам. 2. абве́траны

**weather-bound** [ˈweðərbaʊnd] adj. затрыма́ны благі́м надво́р'ем

**weathercock** [ˈweðərkɑ:k] n. флю́гер -а *m.*

**weather forecast** прагно́з надво́р'я

**weathering** [ˈweðərɪŋ] n., Geol. выве́трываньне *n.*, эро́зія *f.*

**weatherman** [ˈweðərmæn] n., pl. **-men** Informal мэтэаро́ляг -а *m.*, сыно́птык -а *m.*

**weatherproof** [ˈweðərpru:f] – adj. надво́р'еадпо́рны, надво́р'еўсто́йлівы
– v.t. засьцерага́ць ад непаго́ды; рабі́ць надвор'еадпо́рным

**weather strip** ізаляцы́йная сту́жка

**weather vane** флю́гер -а *m.*

**weave** [wi:v] – v.t. **wove** or (rare) **weaved, woven** or **wove, weaving** 1. ткаць; пле́сьці, віць. 2. сплята́ць, спалуча́ць: ***The author wove three plots together into one story*** Аўтар злучы́ў тры сюжэ́ты ў адну́ апо́весьць. 3. ве́сьці апо́вед
– n. 1. тка́ньне *n.*, ткань *f.* 2. вязь *f.*: ***a close weave*** густа́я вязь

**weaver** [ˈwi:vər] n. ткач -а́ *m.*, тка́льля, ткачы́ха *f.*

**web** [web] – n. 1. павуці́на *f.*, павуці́ньне *n.* 2. се́тка *f.*: ***a web of railways*** чыгу́начная се́тка. 3. пла́вальная перапо́нка (*у ка́чак, гусе́й*). 4. рулён газэ́тнае папе́ры
– v.t., **(-bb)** 1. абвіва́ць павуці́ньнем. 2. ублы́тваць у павуці́ньне
• ***connective web tissue*** злуча́льная тка́нка
• ***web page*** старо́нка на інтэрнэ́це

**webbed** [webd] adj. 1. як павуці́на. 2. перапо́нчаты: ***Ducks have webbed feet*** Ка́чкі ма́юць перапо́нчатыя но́гі

**webfoot** [ˈwebfʊt] n., pl **-feet** 1. перапо́нчатая нага́. 2. пту́шка *або́* жывёла зь перапо́нчатымі нага́мі, ла́памі

**web-footed** [ˌwebˈfʊtəd] adj. перапо́нчатано́гі

**wed** [wed] – v.t. жані́ць (*дзяцюка́*); выдава́ць за́муж (*дзяўчы́ну*); дава́ць шлюб. 2. Figur. спалуча́ць
– v.i. 1. бра́цца шлю́бам, жані́цца. 2. Figur. зацята трыма́цца (*ду́мкі, по́глядаў*)

**we'd** [wi:d] 1. скарочанае **we had.** 2. **we should, we would**

**wedded** [ˈwedɪd] adj. 1. ажэ́нены. 2. Figur. адда́ны, ве́рны
• ***wedded bliss*** сяме́йнае шча́сьце

**wedding** [ˈwedɪŋ] – n. 1. шлюб -у *m.* 2. вясе́льле *n.*
– adj. вясе́льны: ***wedding cake*** вясе́льны карава́й *або́* торт; ***wedding dress*** шлю́бная суке́нка

**wedge** [wedʒ] – n. 1. клін -а *m.* 2. клі|нóк -ка́ *m.* (*сы́ру, то́рту*)
– v.t. 1. убіва́ць клін; кало́ць. 2. заклінóўваць; уклінóўваць

**wedge-shaped** [ˈwedʒʃeɪpt] adj. кліна-ва́ты, клінападо́бны

**wedlock** [ˈwedlɑ:k] n. 1. шлюб -у *m.*, жані́цьба *f.*: ***out of wedlock*** бясшлю́бны, бяз шлю́бу, па-за шлю́бам, пазашлю́бны. 2. сяме́йнае жыцьцё

**Wednesday** [ˈwenzdeɪ] n. серада́ *f.*

**wee** [wi:] adj. ве́льмі малы́, мале́нечкі

**weed I** [wi:d] – n. 1. зе́льле, пустазе́льле *n.* 2. Informal тыту́н|ь -ю́ *m.* 3. Informal марыхуа́на *f.*
– v.t. пало́ць
• ***weed out*** а) прапо́лваць. б) выкіда́ць, вычышча́ць

**weed II** [wi:d] n. жало́бны ўбо́р, жало́бная павя́зка
• ***widow's weeds*** удо́він жало́бны ўбо́р

**weeder** [ˈwi:dər] n. 1. пало́льніца *f.*; пало́льнік -а *m.* 2. прыла́да для прапо́лкі

**weedy** [ˈwi:di] adj. 1. заро́слы зе́льлем: ***a weedy garden*** гаро́д заро́слы зе́льлем. 2. зельлепадо́бны. 3. то́нкі і высо́кі; кво́лы

**week** [wi:k] n. ты́д|зень -ня *m.*
• ***week in, week out*** ты́дзень за ты́днем

**weekday** [ˈwi:kdeɪ] n. бу́дні дзень, бу́д|зень -ня *m.*

**weekend** [ˈwi:kˌend] n. субо́та й нядзе́ля, кане́ц ты́дня, ўі́кэнд -у *m.*

**weekly** [ˈwi:kli] – adj. тыднёвы. 2. штотыднёвы: ***a weekly letter home*** штотыднёвы ліст дамо́ў
– adv. штоты́дня, штоты́дзень, раз на ты́дзень
– n. тыднёвік -а *m.*

**weep** [wi:p] – v.i. **wept, weeping** 1. плáкаць; усхлíпваць. 2. сьлязíцца, сьцякáць (*крóплямі*).
– v.t. 1. праліваць сьлёзы: ***She wept bitter tears*** Янá плáкала гóркімі сьлязьмí. 2. аплáкваць: ***No poet wept for him*** Ніхтó з паэ́таў не аплáкваў ягó
• ***weep one's life away*** праплáкаць сваё жыцьцё

**weeper** [ˈwi:pər] n. 1. плáкса *f.*; плаксýн -á *m.*, плаксýха *f.* 2. плáчка, галасíльніца *f.* (*па нябóжчыку*)

**weepiness** [ˈwi:pɪnəs] n. плаксíвасьць *f.*

**weeping** [ˈwi:pɪŋ] – adj. 1. які плáча. 2. ніцы: ***weeping willow*** ніцая вярбá
– n. плач -у *m.*: ***soft weeping*** хлíпаньне *n.*, хліп

**weepy** [ˈwi:pi] adj. хліпасьлíвы, плаксíвы

**weft** [weft] n. утóк -у *m.* (*у тканíне*)

**weigh** [weɪ] – v.t. 1. вáжыць: ***to weigh oneself*** павáжыцца. 2. (out) адвáжваць: ***The grocer weighed out five pounds of sugar*** Крáмнік адвáжыў пяць фýнтаў цýкру. 3. даклáдна абдýмваць, узвáжваць: ***to weigh the advantages and disadvantages*** узвáжыць вы́гады й нявы́гады. 4. ацэ́ньваць
– v.i. 1. вáжыць: ***She weighed 140 pounds*** Янá вáжыла 140 фýнтаў. 2. мець значэ́ньне, вагý. 3. Naut. здымáцца зь я́кара
• ***weigh down*** абцяжáрваць: ***weighed down with troubles*** абцяжáраны клóпатамі
• ***weigh on*** быць цяжáрам *камý*

**weight** [weɪt] – n. 1. вагá *f.*: ***to lose weight*** худнéць; ***to put on weight*** папрáвіцца, патаўсьцéць. 2. цяжáр -у *m.* 3. гíра *f.* 4. груз -у *m.*, цяжáр -у *m.*: ***The pillars support the weight of the roof*** Калёны трымáюць цяжáр дáху. 5. цяжáр турбóтаў, адкáзнасьці: ***It will be a weight off my mind*** Гэ́та здымáе мне клóпат з галавы́. 6. уплы́ў -ву *m.*; вáжнасьць, вáжкасьць *f.*: ***a matter of great weight*** спрáва вялíкай вáжнасьці; ***men of weight*** уплывóвыя, аўтарытэ́тныя лю́дзі
– v.t. 1. нагружáць; абцяжáрваць. 2. надавáць вагí, значэ́ньня
• ***by weight*** на вагý: ***to sell the apples by weight*** прадавáць я́блыкі на вагý
• ***carry weight*** быць вáжным, уплывóвым

**weightless** [ˈweɪtləs] adj. 1. бязвáжкі. 2. безуплывóвы, малавáжкі

**weightlessness** [ˈweɪtləsnəs] n. бязвáжкасьць *f.*

**weighty** [ˈweɪti] adj. 1. цяжкí; вáжкі. 2. вáжны, уплывóвы; вáжкі, пераканáўчы: ***weighty arguments*** вáжкія, пераканáўчыя аргумэ́нты

**weir** [wɪr] n. 1. гаць *f.* 2. запрýда *f.*

**weird** [wɪrd] adj. 1. незямны́, таéмны. 2. дзíўны, дзівакавáты; фантасты́чны

**welcome** [ˈwelkəm] – interj. вітáем: ***Welcome home!*** З прыéздам! Зь вяртáньнем!
– n. 1. вітáньне *n.* 2. сардэ́чная сустрэ́ча: ***You will always have a welcome here*** Вы заўсёды бýдзеце тут жадáным гóсьцем
– v.t. 1. сардэ́чна вітáць. 2. гасьцíнна прымáць
– adj. 1. пажадáны, прыéмны: ***a welcome letter*** пажадáны ліст. 2. быць запрóшаным: ***You are welcome to pick the flowers*** Калí лáска, вы мóжаце нарвáць сабé квéтак
• ***wear out one's welcome*** перасядзéць час гасьцíннасьці
• ***You are (quite) welcome*** Калí лáска; Нямá за штó (*адкáз на падзя́ку*)

**weld** [weld] – v. 1. спáйваць, звáрваць: ***He welded two rods together*** Ён спая́ў два пруты́. 2. цéсна злучáць, гуртавáць: ***Working together for a month welded them into a strong team*** Супóльная прáца на працягу мéсяца спая́ла іх у мóцную камáнду. 3. спáйвацца: ***Some metals weld better than others*** Некатóрыя мэтáлы спáйваюцца лепш за íншыя

– n. 1. зва́рка, спа́йка *f.* 2. спа́йваньне *n.*

**welder** [ˈweldər] n. зва́ршчык, спа́йшчык -а *m.*

**welfare** [ˈwelfer] n. 1. даста́т|ак -ку *m.*; дабрабы́т -у *m.* 2. сацыя́льная апе́ка

**welfare work** сыстэ́ма сацыя́льнага забесьпячэ́ньня

**well I** [wel] – adv. **better, best** 1. до́бра: ***The job was well done*** Пра́ца была́ до́бра вы́кананая; ***Shake well before using*** До́бра ўзбо́ўтайце пе́рад ужыва́ньнем. 2. шмат; далёка: ***He is well past forty*** Яму́ далёка за со́рак. 3. у сапра́ўднасьці: ***I couldn't very well refuse*** У сапра́ўднасьці я ня мо́г адмо́віць

– adj. 1. до́бры, пра́вільны, у пара́дку: ***All is quite well with me*** У мяне́ ўсё ў пара́дку. 2. здаро́вы: ***I am very well*** Я чу́юся зусі́м здаро́вым; Я ма́юся до́бра

– interj. ну (*выража́е зьдзіўле́ньне, згóду*): ***Well! Well! Here's John*** Ну і ну! Вось і Янка; ***Well, I'm not sure*** Ну, я ня пэ́ўны; ***Well, what next?*** Ну, а што далéй?

• ***as well*** а) такса́ма; апрача́ таго́, б) адно́лькава

• ***as well as*** а) у дада́так да; а такса́ма, б) гэ́так жа, як

• ***do well*** а) ме́цца до́бра. б) до́бра зрабі́ць

• ***get well*** вы́здаравець, ачуня́ць

**well II** [wel] – n. 1. калóдзеж -а *m.*, сту́дня *f.* 2. сьвідраві́на *f.* 3. крыні́ца *f.*; жарало́ *n.* 4. пралёт (*ле́сьвіцы*); ша́хтавы *або́* лі́фтавы ствол

– v.i. 1. біць крыні́цай, хлы́нуць. 2. налі́вацца, напаўня́цца : ***Tears welled up in her eyes*** Ейныя во́чы напо́ўніліся сьлязьмі́

**we'll** [wi:l] *скаро́чанае* **we shall, we will**

**well-adjusted** [ˌweləˈdʒʌstɪd] adj. ураўнава́жаны; до́бра нала́джаны

**well-advised** [ˌweldˈvaɪzd] adj. 1. разва́жлівы. 2. до́бра паінфармава́ны, з до́брай пара́дай

**well-aimed** [ˌwelˈeɪmd] adj. до́бра нацэ́лены, тра́пны

**well-appointed** [ˌweləˈpɔɪntɪd] adj. до́бра забясьпе́чаны, асна́шчаны *або́* абсталява́ны

**well-balanced** [ˌwelˈbælənst] adj. 1. ураўнава́жаны, урэгулява́ны. 2. разва́жлівы; псыхі́чна ўраўнава́жаны

**well-behaved** [ˌwelbɪˈheɪvd] adj. прысто́йны, добрапрысто́йны; вы́хаваны

**wellbeing** [ˌwelˈbi:ɪŋ] n. дабрабы́т -у *m.*; памы́снасьць *f.*

**well-born** [ˌwelˈbɔ:rn] adj. радаві́ты

**well-bred** [ˌwelˈbred] adj. 1. до́бра вы́хаваны. 2. до́брага заво́ду; чыстакро́ўны (*пра жывёлу*)

**well-defined** [ˌweldɪˈfaɪnd] adj. дакла́дна азна́чаны, акрэ́сьлены

**well-disposed** [ˌweldɪˈspoʊzd] adj. добразычлі́вы, спрыя́льны; прыхі́льны

**well-dressed** [ˌwelˈdrest] adj. прыбра́ны, прыго́жа апра́нуты

**well-fed** [ˌwelˈfed] adj. нако́рмлены, адко́рмлены; сы́ты, гла́дкі

**well-founded** [ˌwelˈfaʊndɪd] adj. абгрунтава́ны

**well-grown** [ˌwelˈgroʊn] adj. ро́слы

**wellhead** [ˈwelhed] n. крыні́ца *f.*; жарало́ *n.*

**well-informed** [ˌwelinˈfɔ:rmd] adj. до́бра паінфармава́ны

**well-kept** [ˌwelˈkept] adj. до́бра даглéджаны; до́бра захава́ны

**well-known** [ˌwelˈnoʊn] adj. 1. агу́льна ве́дамы (*факт*). 2. шыро́ка ве́дамы, славу́ты

**well-meaning** [ˌwelˈmi:nɪŋ] adj. добразычлі́вы

**well-off** [ˌwelˈɔ:f] adj. 1. у до́брым ста́не. 2. бага́ты, пры грашо́х, забясьпе́чаны

**well-read** [ˌwelˈred] adj. начы́таны

**wellspring** [ˈwelsprɪŋ] n. крыні́ца *f.*

**well sweep,** n. жура|ве́ль -ўля́ *m.* (*пры сту́дні*)

**well-timed** [ˌwelˈtaɪmd] adj. своечасо́вы

**well-to-do** [ˌweltəˈdu:] adj. замо́жны

**well-wisher** [ˈwelˌwɪʃər] n. добразычлі́|вец -ўца *m.*

**Welsh** [welʃ] – adj. валійскі
– n. валíлец -йца *m.*, валíйцы *pl.* 2. валíйская мóва
**Welshman** [ˈwelʃmən] n., pl. **-men** валíлец -йца *m.*
**welt** [welt] – n. 1. рант -а *m.* (*у абýтку*). 2. аблямóўка, абшыўка *f.* 3. Informal пісяг -á *m.* 4. Informal удáр -у *m.*
– v.t. 1. аблямóўваць. 2. Informal паласавáць
**welter** [ˈweltər] – n. сумбýр, бязлáд -у *m.*, блытанíна *f.*
– v.i. 1. патанáць, бóўтацца, валяцца. 2. уздымáцца
**welterweight** [ˈweltərweɪt] n. баксёр сярэдняй вагí
**wen** [wen] n. тлушчáк, тлушчавíк -á *m.*
**Wend** [wend] n. вэнд -а *m.*, лýжыцкі сэрб
**went** [went] v., *p.t. of* **go**
**wept** [wept] v., *p.t., p.p. of* **weep**
**were** [wɜ:r; *unstressed* wər] v., *p.t. of* **be** быў, былí. 2. *subjunctive of* **be**: ***If I were rich, I would travel*** Калí б я быў багáты, я б падарóжнічаў
**we're** [wɪr] *скарóчанае* **we are**
**weren't** [wɜ:rnt] *скарóчанае* **were not**
**west** [west] – n. зáхад -у *m.*
– adj. захóдні
• ***West*** Зáхад, краíны захóдняга сьвéту
• ***the West*** захóдняя чáстка Злýчаных Штáтаў, Канáды
• ***west of*** на зáхад ад
**westbound** [ˈwestbaʊnd] adj. якí ідзé (вядзé) на зáхад (*пра кірýнак*)
**westerly** [ˈwestərli] – adj., adv. 1. на зáхад. 2. з зáхаду, захóдні.
– n. захóдні вéцер
**western** [ˈwestərn] – adj. 1. захóдні. 2. у захóдняй чáстцы
– n. Informal вэ́стэрн -у *m.* (*каўбóйскі фíльм абó апавядáньне з жыцьця амэрыкáнскага Зáхаду*)
**Western civilization** захóдняя цывілізáцыя
**Westerner** [ˈwestərnər] n. чалавéк з захóдняй чáсткі Злýчаных Штáтаў *абó* Канáды
**Western Hemisphere** Захóдняя Паўкýля
**westernmost** [ˈwestərnmoʊst] adj. найбóльш захóдні, найдалéй на зáхадзе
**Westphalian** [westˈfeɪliən] adj. вэстфáльскі
**westward** [ˈwestwərd] – adv. на зáхад, у захóднім кірýнку: ***to sail westward*** плы́сьці на зáхад
– adj. накіравáны на зáхад, захóдні: ***the westward slope of the hill*** захóдні схон узгóрку
**westwards** [ˈwestwərdz] adv., *гл.* **westward,** adv.
**wet** [wet] – adj. **wetter, wettest** 1. мóкры. 2. нявы́сахлы: ***Don't touch: wet paint*** Не дакранáйся — пафарбавáна. 3. дажджлíвы, мóкры: ***wet weather*** дажджлíвае, мóкрае надвóр'е. 4. вільгóтны
– v.t. 1. мачы́ць, замóчваць
– v.i. 1. мóкнуць; макрэ́ць. 2. мачы́цца, выдзяляць мачý.
– n. 1. макратá, макрыня *f.* 2. вільгóтнасьць, вíльгаць *f.*, макрóцьце *n.*
• ***wet behind the ears*** недасьвéдчаны, зялёны
**wether** [ˈweðər] n. вы́легчаны барáн
**wetland** [ˈwetlænd] n. балóта *n.*; дрыгвá *f.*
**wetness** [ˈwetnəs] n. макрыня *f.*; макрэ́ча *f.*
**wet nurse** мáмка, кармíліца *f.*
**wet-nurse** [ˈwetnɜ:rs] v.t. быць мáмкай
**wettish** [ˈwetɪʃ] adj. макравáты, вільгóтны
**we've** [wi:v; unstressed wiv] *скарóчанае* **we have**
**whack** [hwæk] – n. удáр -у *m.*
– v.t. лупцавáць
• ***out of whack*** у бязлáдзьдзі, ня ў фóрме
• ***take a whack at*** Sl. паспрабавáць *што* (*анý ўдáсца*)
**whacky** [hwæki] *гл.* **wacky**
**whale I** [hweɪl] – n. кіт -á *m.*
– v.i. палявáць на кітóў; лавíць кітóў
**whale II** [hweɪl] v.t., Informal біць, хвастáць; сьцябáць, лупцавáць
**whaleboat** [ˈhweɪlboʊt] n. кітабóйная лóдка

**whalebone** [ˈhweɪlboʊn] n. кітовы вус

**whaler** [ˈhweɪlər] n. кіталоў -ва *m.*, кітабоій -я *m.*

**whaling** [ˈhweɪlɪŋ] n. 1. лоўля кітоў. 2. кітабойны промысел

**wharf** [hwɔ:rf] n., pl. **wharves** or **wharfs** 1. верф *f.* 2. прычал -у *m.*

**what** [hwʌt] – pron. 1. *пытальны*: што, які: ***What is it?*** Што гэта? ***What of it?*** Што з гэтага? ***So what?*** Ну, дык што з гэтага? ***What is the matter?*** Што сталася? У чым справа? ***What is your name?*** Твае імя? Як цябе зваць? 2. *адносны*: ***I know what you mean*** Я ведаю, што ты хочаш сказаць; ***Do what you please*** Рабі, што табе хочацца

– adj. 1. які, каторы : ***What time is it?*** Каторая гадзіна? 2. той, які; які: ***Put back what money is left*** Палажы назад грошы, што засталіся. 3. што за: ***What a beautiful day!*** Што за прыгожы дзень! ***What a pity!*** Шкада! ***What luck!*** Што за шчасьце!

– adv. як, наколькі: ***What does it matter?*** Якое гэта мае значаньне?

– interj. што: ***What! Are you late again?*** Што? Ты ізноў спазьніўся?

• ***and what not*** і ўсё іншае: ***She collected buttons, beads, bangles, and what not*** Яна зьбірала гузікі, пацеркі, бранзалеты і ўсё іншае

• ***what for*** чаму; навошта

• ***what have you,*** Informal і да таго падобнае

• ***what if*** што сталася б, калі б

• ***what's what,*** Informal што да чаго

**whatever** [hwʌtˈevər] – pron. 1. усё, што; што б ні: ***Do whatever you like*** Рабі, што хочаш; ***I am right, whatever you think*** Мая праўда, што б ты сабе ні думаў.

– adj. 1. абы-які, які б ні быў: ***for whatever reason*** дзеля якой бы ні было прычыны. 2. які-небудзь: ***I have no plans whatever*** Я ня маю аніякіх плянаў; ***Is there any hope whatever?*** Ці ёсьць хоць якая надзея?

**whatnot** [ˈhwʌtnɑ:t] n. 1. усякая ўсячына, барахло *n.* 2. палічка для дробязі

**what's** [hwʌts] *скарочанае* **what is**

**whatsoever** [ˌhwʌtsoʊˈevər] pron., adj. *гл.* **whatever**

**wheal** [hwi:l] n. пухір -а *m.*

**wheat** [hwi:t] n. пшаніца *f.*

**wheaten** [ˈhwi:tən] adj. пшанічны

**wheel** [hwi:l] – n. 1. кола *n.* 2. руль -я *m.*, абаранак -ка *m.*; круг -а *m.*: ***a ship's wheel*** стырно *n.*, рулявое кола, штурвал -а *m.*; ***a potter's wheel*** ганчарны круг. 3. Figur. машына *f.*, мэханізм -у *m.*: ***the wheels of state*** дзяржаўная машына. 4. Informal самаход -а *m.*; ровар, веласіпэд -а *m.*

– v. 1. круціцца, вярцецца. 2. вэзьці на колах. 3. Informal калясіць

• ***at the wheel*** а) за стырном. б) на кіраўнічым станові шчы

• ***big wheel*** вялікая шышка (*пра важную асобу*)

• ***wheels*** а) мэханізм -у *m.* б) структура *f.* в) апарат (*дзяржаўны*)

• ***wheels within wheels*** складаныя абставіны

**wheelbarrow** [ˈhwi:lˌbæroʊ] n. тачка *f.*

**wheelchair** каляска *f.* (*для інвалідаў*)

**wheeler-dealer** [ˌhwi:lərˈdi:lər] n., Sl. дзялец -ца, дзялок, -ка *m.*

**wheelhouse** [ˈhwi:lhaʊs] n. рубка *f.*, кабінка стырнавога

**wheelwright** [ˈhwi:lraɪt] n. калёсьнік -а *m.*

**wheeze** [ˈhwi:z] – v.i. сапці, хрыпець

– n. 1. сапеньне *n.*, сап -у *m.*; хрыпеньне *n.*, храп -у *m* . 2. Sl. зьбіты выраз, стары анекдот

**wheezy** [ˈhwi:zi] adj. сапаты, хрыпаты

**when** [hwen] – adv. калі: ***When does the store close?*** Калі зачыняецца крама?

– conj. 1. калі: а) ***Rise when your name is called*** Устань, як цябе выклічуць. 2. тады, калі: ***You cry when you should laugh*** Ты плачаш, калі трэба сьмяяцца

– n. час -у *m.*: ***the when and where of an act*** час і месца дзеі

**whence** [hwens] adv. адкуль

**whenever** [hwenˈevər] conj., adv. калí; калí-кóлечы, калí б ні былó

**where** [hwer] – adv. 1. дзе: ***Where is he?*** Дзе ён? 2. кудьí: ***Where are you going?*** Кудьí ідзéш? 3. адкýль, дзе: ***Where did you get this book?*** Дзе ты дастáў гэ́тую кнíгу?
– conj. 1. там, дзе: ***The keys are where you left them*** Ключы́ там, дзе ты іх пакíнуў. 2. кудьí: ***I will go where you go*** Я пайдý, кудьí ты пóйдзеш

**whereabout** *гл.* **whereabouts**

**whereabouts** [ˈhwerəbaʊts] – adv., conj. дзе паблíзу, блíзка; дзе? ***Whereabouts can I find a doctor?*** Дзе тут паблíзу мóжна знайсьці лéкара?
– n., pl. прыблíзнае месцазнахóджаньне *n.*: ***Do you know his whereabouts?*** Ці вы вéдаеце, дзе ён знахóдзіцца?

**whereas** [hwerˈæz] conj. 1. тым чáсам, як; хацá; а: ***Some people like opera whereas others do not*** Некатóрым лю́дзям падабáецца óпэра, а íншым не. 2. дзéля тагó што, так як

**whereby** [hwerˈbaɪ] adv., conj. пры дапамóзе *чагó*; чым; як: ***There is no other way whereby he can be saved*** Нямá ніякага íншага спóсабу ягó вы́ратаваць

**wherefore** [hwerˈfɔːr] – adv. 1. навóшта; чамý. 2. дзéля тагó, тамý
– conj. дзéля якóе прычы́ны; чамý
– n. прычы́на *f.*

**wherefrom** [hwerˈfrʌm] adv. адкýль; з чагó: ***Wherefrom has he so much wisdom?*** Адкýль у ягó гэ́тулькі мýдрасьці?

**whereof** [hwerˈʌv] adv., conj. з чагó; зь якóга; пра кагó

**whereupon** [ˌhwerəˈpɑːn] adv., conj. 1. на чым, на якíм. 2. у якíм, пасьля якóга

**wherever** [hwerˈevər] conj., adv. дзе; дзе ж, кудьí ж; хоць дзе, хоць кудьí: ***Wherever are you going?*** Кудьí ж ты ідзéш?; ***Sit wherever you like*** Сядзь дзе хóчаш

**whet** [hwet] v.t. 1. тачы́ць: ***to whet a knife*** натачы́ць нож. 2. Figur. узбуджáць; завастрáць (*апэты́т, жадáньне*)

**whether** [ˈhweðər] conj. ці: ***I don't know whether he is here*** Я ня вéдаю, ці ён тут
• ***whether ... or*** ці ... ці: ***It matters little whether we go or stay*** Гэ́та малавáжна, ці мы пóйдзем, ці застанéмся
• ***whether or not*** так ці íнакш; ва ўсякíм выпáдку; ня глéдзячы ні на што

**whetstone** [ˈhwetstoʊn] n. тачы́ла *n.*, асялlóк, брусlóк -кá *m.*

**whey** [hweɪ] n. сырóватка *f.*

**which** [hwɪtʃ] – pron. 1. які́, катóры, хто: ***Which of you am I to thank?*** Камý з вас падзя́каваць?; ***Which way shall we go?*** У які́ бок мы пóйдзем? 2. які́, катóры, што: ***the sight which I saw*** відóвішча, якóе я пабáчыў
– adj. які́, катóры: ***Which boy won the prize?*** Катóры хлапéц здабы́ў узнагарóду?

**whichever** [hwɪtʃˈevər] pron., adj. 1. які́ хацá, які́ тóлькі, катóры тóлькі: ***Buy whichever hat you like*** Купля́й капялю́ш, які́ тóлькі табé падабáецца. 2. які́ б ні, катóры б ні: ***Whichever side wins, I shall be satisfied*** Катóры б бок ні вы́йграў, я бýду задавóлены

**whiff** [hwɪf] – n. 1. павél|ў -ву *m.*, пóдых -у *m.* (*вéтру*). 2. пах -у *m.* 3. дымlóк -кá *m.* (*цыгарэ́ты*)
– v.i. 1. дзьмуць; дзьмýхаць. 2. пы́хкаць, пускáць дымóк

**whiffle** [ˈhwɪfəl] v.i. 1. падзьмýхваць, павявáць (*пра вéцер*). 2. хістáцца, быць нерашýчым

**while** [hwaɪl] – n. час -у *m.*, адрэ́зак чáсу: ***a long while*** дóўга; ***in a little while*** неўзабáве; ***a little while ago*** нядáўна; ***for a while*** на нéйкі час
– conj. 1. тады́ як; калí, пакýль: ***While I was speaking, he said nothing*** Калí я гаварьí́ў, ён нічóга не казáў. 2. хоць: ***While I like the color of***

***your hat, I do not like its shape*** Хоць мне падабаецца колер твайго капелюша, не падабаецца мне ягоны фасон

• ***while away (time)*** бавіць, праводзіць час

**whim** [hwɪm] n. прыхамаць *f.*, капрыз -у *m.*, захапленьне *n.*; дзівацтва *n.*: ***Her whim for gardening won't last long*** Ейнае захапленьне гароднiцтвам доўга не патрывае

**whimsical** [ˈhwɪmzɪkəl] adj. 1. капрызны; пераборлівы. 2. дзівакаваты, эксцэнтрычны

**whine** [hwaɪn] – v.i. 1. скавытаць; скуголіць; екатаць (*пра сабаку*). 2. пішчэць, хныкаць (*пра дзіця*). 3. наракаць; скардзіцца

– n. 1. скавытаньне, скуголеньне *n.* 2. піск -у *m.*, хныканьне, нараканьне *n.*

**whinny** [ˈhwɪni] – n. іржаньне *n.* (*каня*)

– v.i. іржаць

**whip** [hwɪp] – v., **whipped** or **whipt, whipping,**

– v.t. 1. a) ударацы; біць; лупцаваць; сьцёбаць, паганяць: ***to whip a horse on*** паганяць каня пугай. 2. a) зрываць, зьдзіраць зь сябе: ***He whipped off his coat*** Ён сарваў зь сябе плашч. б) схапіць, накінуць на сябе: ***She whipped on her robe*** Яна накінула на сябе капоту. 3. узбуджаць, уздымаць, падахвочваць: ***to whip up some enthusiasm*** уздымаць энтузіязм. 4. зьбіваць (*яйка, сьмятану*). 5. закідаць вуду

– v.i. шугаць: ***The thief whipped behind a corner and escaped*** Злодзей шугануў за рог і ўцёк

– n. 1. пуга *f.*, бізун -а *m.* 2. сьцёбаньне *n.* (*пугай, бізуном*). 3. кіраўнік парлямэнцкай фракцыі. 4. фурман -а *m.*

**whipping** [ˈhwɪpɪŋ] n. 1. біцьцё, лупцаваньне *n.*; сьцёбаньне, паганяньне *n.* 2. абмотка *f.*, абмотваньне *n.*: ***We fastened the broken rod with a whipping of wire*** Зламаны прут мы абматалі дротам

• ***whipping boy*** ахвярны казёл

**whipstock** [ˈhwɪpstɑːk] n. пугаўё *n.*

**whipt** [hwɪpt] v., *p.t., p.p. of* **whip**

**whirl** [hwɜːrl] – v.i. 1. круціцца, кружыцца; віхрыцца, віраваць: ***The leaves whirled on the wind*** Лісьце кружылася на ветры. 2. праносіцца; праімчацца, пракалясіць. 3. Figur. адчуваць галавакружэньне: ***My head is whirling*** У мяне закружылася галава

– n. 1. кручэньне, кружэньне *n.* 2. вір -у *m.*. 3. Figur. вір (*падзеяў*): ***social whirl*** вір тавараскага жыцьця. 3. галавакружэньне *n.*

• ***whirl away*** імчаць

**whirlpool** [ˈhwɜːrlpuːl] n. вадзяны вір -у *m.*, вадаварот -у *m.*; жакузі *n., indecl.*

**whirlwind** [ˈhwɜːrlwɪnd] n. віхор віхру *m.*, сьмерч -у *m.*

**whirr** [hwɜːr] – v.i. гудзець

– n. гудзеньне *n.*, гуд -у *m.*

**whish** [hwɪʃ] – n. шэлест, шолах -у *m.*; шорах *m.*

– v.i. шалясьцець, шаматаць

**whisk** [hwɪsk] – v.t. 1. зьмятаць; змахваць. 2 . зьбіваць (*яйкі, сьмятану*)

– v.i. шмыгаць: ***The mouse whisked into its hole*** Мыш шмыгнула ў норку

– n. 1. лёгкі, жвавы рух, узмах -у *m.* 2. веніча|к -ка *m.*, мяцёлка *f.* 3. калатоўка (*для зьбіваньня*)

• ***whisk away*** паімчаць

**whisker** [ˈhwɪskər] n. 1. валасіна. 2. вусы (*у ката, тыгра*)

• ***whiskers,*** pl. бакенбарды, бакі *pl.*

**whiskered** [ˈhwɪskərd] adj. 1. з бакенбардамі *або* бакамі. 2. з вусамі (*пра зьвяроў*)

**whiskey** [ˈhwɪski] n., pl. **-kies** віскі *n.*

**whisper** [ˈhwɪspər] – v. 1. шаптаць. 2. гаварыць пад сакрэтам, шаптацца: ***It is whispered that his health is failing*** Ходзяць чуткі, што ў яго здароўе падупадае. 3. шапацець; шамацець: ***The wind whispered in the trees*** Вецер шапацеў у дрэвах

– n. шэпт -у *m.*, шапта́ньне *n.*: ***to speak in a whisper*** гаварыць шэптам. 2. шапаце́ньне *n.*, шо́рах -у *m.*

**whist** [hwɪst] n. віст -у *m.* (*гульня́ ў ка́рты*)

**whistle** [ˈhwɪsəl] – v.i. 1. сьвіста́ць. 2. сьвіста́ць у сьвісто́к. 3. клі́каць, сыгналізава́ць *або́* кірава́ць сьві́стам *або́* сьвістко́м: ***The police officer whistled the automobile to stop*** Паліцыя́нт сьвістко́м спыні́ў аўтамабі́ль. 4. высьві́стваць: ***to whistle a tune*** высьві́стваць мэлёдыю

– n. 1. сьвіст -у *m.*, сьвістlо́к -ка́ *m.* (*гук*). 2. сьвістlо́к -ка́ *m.* (*інструмэ́нт*)

• ***whistle for*** Informal чака́ць надарэ́мна

• ***whistle in the dark*** падбадзёрваць сябе́ ў стра́ху

• ***wet one's whistle,*** Informal памачы́ць губу́, вы́піць

**whistler** [ˈhwɪslər] n. сьвісту́н -а́ *m.*

**white** [hwaɪt] – n. 1. бе́лы ко́лер. 2. бель *f.*, бе́льле *n.*, белізна́, бе́ласьць *f.* 3. бе́лая фа́рба, бялі́ла *n.* 4. бе́лая во́пратка. 5. бе́лыя плямы ў дру́ку. 6. бе́лы чалаве́к (*бе́лае ра́сы*)

– adj. 1. бе́лы. 2. бяля́вы, белава́ты. 3. бле́дны: ***to turn white with fear*** зьбяле́ць ад стра́ху. 4. серабры́сты, сівы́: ***white hair*** сівы́я валасы́. 5. сьне́жны: ***a white winter*** сьне́жная зіма́. 6. беззага́нны; чы́сты; нязві́нны. 7. бе́лы (*у палітычным сэ́нсе*)

• ***bleed white*** а) абабра́ць *каго́* да ні́ткі; вы́матаць, вы́цягнуць гро́шы. б) пазба́віць *каго́* сі́лы

• ***white of an egg*** бяло́к я́йка

• ***white meat*** бе́лае мя́са (*як кура́ціна, цяля́ціна*)

• ***white wines*** бе́лыя ві́ны

• ***whites of the eyes*** бялкі́ вачэ́й

**white birch** бе́лая бяро́за

**white clover** дзя́целіна *f.*, дзя́цельнік -у *m.*

**white coal** бе́лы ву́галь, гідраэнэ́ргія *f.*

**white-collar** [ˌhwaɪtˈkɑːlər] adj. канцыля́рскі, канто́рскі, белакашу́льны: ***white-collar worker*** службо́lвец -ўца *m.*, канцыля́рскі працаўні́к

**whitefish** [ˈhwaɪtfɪʃ] n. сіг -а *m.*

**white flag** бе́лы сьцяг (*сы́мбаль замірэ́ньня або́ капітуля́цыі*)

**white frost** шэ́рань *f.*

**white-hot** [ˌhwaɪtˈhɑːt] adj. 1. распа́лены дабяла́. 2. ве́льмі ўзбу́джаны

**Whitehall** [ˈhwaɪthɔːl] n. 1. Уайтгол (*ву́ліца ў Лёндане, на яко́й знахо́дзяцца ўра́давыя ўстано́вы*). 2. Informal брыта́нскі ўра́д

**White House** 1. Бе́лы Дом (*у Вашынгто́не*). 2. Informal ура́д ЗША

**white matter** тка́нка мазго́ў, сьпінно́га мо́згу

**whiten** [ˈhwaɪtən] – v.t. бялі́ць, выбе́льваць

– v.i. бяле́ць

**whiteness** [ˈhwaɪtnəs] n. бель, бе́ласьць, белізна́ *f.*

**white supremacy** тэо́рыя перава́гі бе́лае ра́сы над і́ншымі

**whitewash** [ˈhwaɪtwɑːʃ] – n. 1. бялі́ла *n.* 2. апра́ўдваньне; выбе́льваньне *n.*

– v.t. 1. бялі́ць. 2. выбе́льваць; апра́ўдваць

**whither** [ˈhwɪðər] adv., conj. куды́

**whitish** [ˈhwaɪtɪʃ] adj. белава́ты, бяля́вы

**whity** [ˈhwaɪti] adj. белава́ты, бяля́вы

**whiz** or **whizz** [hwɪz] – n. 1. сьвіст -у *m.* (*паве́тра*); гудзе́ньне, шыпе́ньне *n.* 2. Sl. ма́йстlар -ра *m.*, знаlве́ц -ўца́ *m.*

– v.i. сьвіста́ць; шыпе́ць: ***An arrow whizzed past his head*** Страла́ прасьвіста́ла паўз ягóную галаву́

**who** [huː] pron. 1. хто. 2. які́, яка́я: ***The girl who spoke last is my best friend*** Дзяўчы́на, яка́я выступа́ла апо́шняя — мая́ найле́пшая сябро́ўка. 3. хто, той: ***Who is not for us is against us*** Хто ня з на́мі, той супро́ць нас

• ***who's who*** хто ёсьць хто

**whoever** [huˈevər] pron. 1. хто-ко́лечы; абы́ хто, хто заўго́дна: ***Whoever wants the book may have it*** Хто заўго́дна мо́жа ўзя́ць гэ́тую кні́гу

**whole** [hoʊl] – adj. 1. цэ́лы, уве́сь: ***He worked the whole day*** Ён працава́ў цэ́лы дзень. 2. непашко́джаны, цэ́лы: ***to get out of a fight with a whole skin*** вы́йсьці з бо́йкі цэ́лым, бяз дра́пінкі. 3. цэ́льны: ***whole milk*** нязьня́тае, цэ́льнае малако́
– n. цэ́ласьць *f.*
• ***as a whole*** як адна́ цэ́ласьць; ра́зам
• ***on the whole*** а) агу́лам беручы́, на́огул, уво́гуле; перава́жна, у бо́льшасьці. б) у канчатко́вым вы́ніку, у рэ́шце рэшт

**whole note** Mus. цэ́лая но́та

**whole number** цэ́лы лік

**wholesale** [ˈhoʊlseɪl] – n. гуртавы́, апто́вы га́ндаль, га́ндаль гу́ртам: ***He buys at wholesale and sells at retail*** Ён купля́е гу́ртам, а прадае́ ўраздро́б
– adj. 1. гуртавы́, апто́вы: ***the wholesale price*** гуртава́я цана́. 2. Figur. павярхо́ўны, беспадста́ўны: ***Avoid wholesale condemnation*** Высьцерага́йцеся беспадста́ўных, павярхо́ўных асуджэ́ньняў. 3. Figur. агу́льны, ма́савы: ***wholesale slaughter*** ма́савае зьнішчэ́ньне, разьня́ *f.*
– adv. ма́сава; гу́ртам, агу́лам; у вялі́кіх паме́рах
– v.t. прадава́ць гу́ртам

**wholesaler** [ˈhoʊlseɪlər] n. гуртаві́к -а́ *m.*

**wholesome** [ˈhoʊlsəm] adj. здаро́вы; дабратво́рны: ***wholesome food*** здаро́вая е́жа

**whole-wheat** [ˈhoʊlhwi:t] adj. непытлява́ная пшані́чная мука́

**who'll** [hu:l] *скаро́чанае* **who will, who shall**

**wholly** [ˈhoʊli] adv. зусі́м, ца́лкам

**whom** [hu:m] pron. каму́, каго́: ***To whom it may concern*** Таму́, каго́ ты́чыцца

**whomever** [hu:ˈmevər] pron. каго́-ко́лечы. 2. хоць каму́

**whoop** [hu:p] – n. 1. во́клік, гік -у *m.* 2. курлы́каньне, гі́каньне *n.*
– v.t. 1. крыча́ць. 2. галёкаць, паганя́ць кры́кам: ***to whoop horses on*** паганя́ць ко́ней кры́кам. 3. гі́каць

**whoopee** [ˈhwʊpi:] – interj. во́кліч ра́дасьці, захапле́ньня
– n. шу́мная гуля́нка

**whooping cough** [ˈhu:pɪŋkɔ:f] n. ко́клюш -у *m.*

**whop** [hwɑ:p] – v.t. **(-pp-)** Informal лупі́ць, лупцава́ць
– n. цяжкі́ ўда́р

**whopper** [ˈhwɑ:pər] n., Informal 1. не́шта веліза́рнае. 2. несусьве́тная хлусьня́

**whopping** [ˈhwɑ:pɪŋ] adj., Informal вялі́чэ́зны, велізáрны

**whore** [hɔ:r] – n. 1. прастыту́тка *f.* 2. блудні́ца, распу́сьніца *f.*
– v.i. распу́сьнічаць

**whorehouse** [ˈhɔ:rhaʊs] n. публі́чны дом

**who's** [hu:z] *скаро́чанае* **who is, who has**

**whose** [hu:z] pron. чый

**whosesoever** [ˌhu:zsoʊˈevər] pron. чый-бы ні: ***I will accept whosesoever aid is offered*** Я прыму́ дапамо́гу, чыя́ б яна́ ні была́

**whosoever** [ˌhu:soʊˈevər] pron. хто-ко́лечы

**why** [hwaɪ] – adv. 1. чаму; чаго́: ***Why did you do it?*** Чаму́ ты гэ́та зрабі́ў?; ***Why are you crying?*** Чаго́ ты пла́чаш? 2. чаму́, дзе́ля чаго́: ***That is the reason why he failed*** Гэ́та — прычы́на, чаму́ ён пацярпе́ў няўда́чу
– n. прычы́на, падста́ва *f.*: ***She tried to find out the whys and wherefores of his behavior*** Яна́ стара́лася раскры́ць прычы́ны й мэ́ты яго́ных паво́дзінаў
– interj. *выка́звае зьдзіўле́ньне, сумне́ў*: ***Why! It's all gone!*** Што ж гэ́та! Ужо́ ўсё пайшло́! ***Why not?*** Чаму ж не?
• ***that is why*** вось чаму́; таму, дзе́ля чаго́
• ***the whys of it*** прычы́ны, асно́вы гэ́тага

**wick** [wɪk] n. кнот -а *m.*

**wicked** [ˈwɪkɪd] – adj. 1. дрэ́нны, злы, ліхі́; немара́льны; грэ́шны: ***a wicked person*** злы, ліхі́ чалаве́к; ***wicked***

***deeds*** немара́льныя ўчы́нкі. 2. гарэ́зьлівы, сваво́льны, зласьлі́вы: ***a wicked smile*** зласьлі́вая ўсьме́шка. 3. Informal непрые́мны; суро́вы: ***a wicked task*** непрые́мнае зада́ньне; ***a wicked storm*** страшэ́нная навальні́ца
– n. грэ́шнік -а *m.*

**wicker** [ˈwɪkər] – n. 1. лаза́ (*для пляце́ньня*). 2. рэч, сплёценая з лазы́
– adj. плёцены з лазы́: ***wicker baskets*** кашы́, плёценыя з лазы́; ***wicker chair*** плёценае крэ́сла

**wickerwork** [ˈwɪkərwɜ:rk] n. вы́рабы плёценыя з лазы́

**wicket** [ˈwɪkɪt] n. 1. бра́мка *f.* 2. ваке́нца *n.*: ***Buy your tickets at this wicket*** Купі́ білёты ў гэ́тым ваке́нцы. 3. бра́мка *f.* (*у кры́кеце*)

**wide** [waɪd] – adj. 1. шыро́кі: ***a wide street*** шыро́кая ву́ліца. 2. прасто́рны
– adv. шыро́ка: ***Open your mouth wide*** Раскры́й шыро́ка рот
• ***far and wide*** усю́ды, далёка й шыро́ка
• ***the wide*** вялі́кі абша́р, неабся́жная прасто́ра
• ***wide apart*** далёка адзі́н ад аднаго́
• ***wide choice*** шыро́кі, вялі́кі вы́бар
• ***wide open*** на́сьцеж
• ***wide world over*** ва ўсі́м сьве́це

**wide-awake** [ˌwaɪdəˈweɪk] adj. 1. ца́лкам прачну́ўшыся. 2. Figur. пі́льны; чу́йны

**wide-eyed** [ˌwaɪdˈaɪd] adj. 1. наі́ўны, няві́нны. 2. мо́цна зьдзі́ўлены

**widely** [ˈwaɪdli] adv. 1. шы́рака, шыро́ка: ***a man who is widely known*** шыро́кавядо́мы чалаве́к. 2. ве́льмі, крайне: ***two widely different accounts*** два ве́льмі ро́зныя ро́спаведы

**widen** [ˈwaɪdən] – v.t. шы́рыць, пашыра́ць
– v.i. пашыра́цца

**widespread** [ˈwaɪdspred] adj. шыро́ка распасьцёрты, шыро́ка раскі́нуты: ***widespread wings*** шыро́ка распасьцёртыя кры́лы

**widow** [ˈwɪdoʊ] n. удава́ *f.*

**widowed** [ˈwɪdoʊd] adj. аўдаве́лы

**widower** [ˈwɪdoʊər] n. удаве́ц -ўца́ *m.*

**widowhood** [ˈwɪdoʊhʊd] n. стан удавы́

**width** [wɪdθ] n. 1. шырыня́ *f.* 2. по́лка, сто́лка *f.*: ***curtain taking two widths of cloth*** фіра́нка зь дзьвюх по́лак матэ́рыі

**wield** [wi:ld] v.t. вало́даць: ***A writer wields the pen*** Аўтар вало́дае пяро́м

**wiener** [ˈwi:nər] n. сасі́ска *f.*

**wife** [waɪf] n., pl **wives** жо́нка *f.*

**wifely** [ˈwaɪfli] adj. 1. жо́нчын. 2. жано́чы

**wig** [wɪg] – n. пары́к -а́ *m.*: ***The bald man wore a wig*** Лы́сы мужчы́на насі́ў пары́к
– v.i. **(-gg-)** 1. надзява́ць пары́к. 2. Informal сварьі́цца, прабіра́ць

**wiggle** [ˈwɪgəl] – v.i. ту́зацца, ёрзаць: ***The restless child wiggled in his chair*** Неспако́йнае дзіця́ ёрзаць у крэ́сьле
– v.t. 1. варушы́цца. 2. ту́заць: ***to wiggle the toes*** варушы́ць па́льцамі ног
– n. ёрзаньне, ту́заньне *n.*

**wiggly** [ˈwɪgli] adj. 1. варухлі́вы. 2. хва́лісты: ***a wiggly line*** хва́лістая лі́нія

**wigwam** [ˈwɪgwɑ:m] n. вігва́м -а *m.*

**wild** [waɪld] – adj. 1. дзі́кі. 2. нецывілізава́ны: ***wild man*** дзіку́н -а́ *m.* 3. разгу́льны, распу́сны: ***to live a wild life***: жыць распу́сным жыцьцём. 4. запусьце́лы. 5. ашале́лы, разью́шаны: ***wild with rage*** ашале́лы ад гне́ву. 6. бу́рны: ***a wild storm*** бу́рная навальні́ца. 7. невераго́дны, дзі́ўны, недарэ́чны. 8. жо́рсткі, лю́ты
– n. 1. дзіч, дзі́касьць *f.* 2. пустэ́ча *f.*; аблo´га *f.*
– adv. дзі́ка, да дзі́касьці
• ***drive wild*** даво́дзіць да ша́лу
• ***run wild*** дзі́ка разгу́льваць
• ***take a wild stab*** рабі́ць наўздага́д
• ***wild fire*** вялі́кі пажа́р (*які́ ця́жка патушы́ць*)
• ***wild flower*** палява́я *або́* лясна́я кве́тка

• ***wild goose chase*** бессэнсоўная задума, пагоня за пустым
• ***wild land*** дзікі, ненаселены край
**wild animals** зьверына *f.*, *coll.* зьвяр'ё *n.*
**wild boar** дзік -а *m.*
**wildcat** [ˈwaɪldkæt] n. 1. Zool. рысь *f.* 2. запальчывы чалавек. 3. рызыкоўнае гандлёвае прадпрыемства
• ***wildcat stocks*** рызыкоўныя акцыі
• ***wildcat strike*** нелегальная забастоўка
**wilderness** [ˈwɪldərnəs] n. пустэча *f.*, дзікая мясьціна *або* абшар
**wildlife** [ˈwaɪldlaɪf] n. жывая прырода (*зьвяры й расьліны*)
**wild West** or **Wild West** Дзікі Захад (*заходняя частка ЗША да ўсталяваньня там стабільнай улады*)
**wile** [waɪl] – n. хітрасьць *f.*; хітрыкі *pl.*, ашуканства *n.*
– v.t. вабіць, прываблiваць хітрасьцю; прынаджваць
• ***wile away*** бавіць час
**wilful** [ˈwɪlfəl] adj., *гл.* **willful**
**will I** [wɪl] *дапаможны дзеяслоў, паказвае* 1. *будучы час*: ***He will come soon*** Ён прыйдзе неўзабаве. 2. *згоду*: ***I will do what you want*** Я зраблю, што ты хочаш. 3. *нязьменнасьць*: ***Boys will be boys*** Хлапцы будуць хлапцамі. 4. *загад, забавязаньне*: ***You will do it at once!*** Ты зробіш гэта зараз жа! 5. *працяглaсьць дзеяньня*: ***She will read for hours*** Яна чытае гадзінамі
**will II** [wɪl] – n. 1. воля *f.*: ***a strong will*** цьвёрдая воля. 2. воля *f.*; хаценьне, жаданьне *n.*: ***He came and went at will*** Ён прыходзіў і сыходзіў калі хацеў. 3. Law. тэстамэнт -у *m.*
– v.t. 1. пастанаўляць, прымушаць сябе: ***She willed to keep awake*** Яна сілай волі змусіла сябе не заснуць. 2. вырашаць, прадвызначаць: ***Fate has willed it otherwise*** Лёс вырашыў гэта інакай. 3. адпісваць, перадаваць у спадчыну (*тэстамэнтам*): ***to will a house to someone*** запісаць хату на некага
• ***against one's will*** супроць сваёй волі
• ***at will*** дастаткова, уволю
• ***good will*** добразычлівасьць *f.*
• ***have one's will*** дамагчыся свайго
• ***ill will*** незычлівасьць
• ***will power*** сіла волі
• ***with a will*** энэргічна, рашуча
**willed** [wɪld] adj. 1. рашучы, валявы: ***strong-willed*** зь цьвёрдай воляй, характарам. 2. упарты
**wil(l)ful** [ˈwɪlfəl] adj. 1. самавольны, упарты. 2. сьвядомы, абдуманы; наўмысны: ***willful murder*** наўмыснае забойства; ***willful waste*** сьвядомае марнатраўства
**wil(l)fully** [ˈwɪlfəli] adv. 1. дабраахвотна, па сваёй волі. 2. абдумана, з намерам
**willing** [ˈwɪlɪŋ] adj. 1. згодны: ***He is willing to wait*** Ён згодзен пачакаць. 2. ахвотны, ахвочы: ***a willing worker*** ахвочы работнік. 3. схільны
**willingly** [ˈwɪlɪŋli] adv. 1. ахвоча, ахвотна. 2. згодна
**willingness** [ˈwɪlɪŋnəs] n. гатовасьць *f.*, жаданьне *n.*
**will-o'-the-wisp** [ˌwɪləðəˈwɪsp] n. 1. блукаючы агеньчык. 2. Figur. нешта няўлоўнае, недасяжнае
**willow** [ˈwɪloʊ] – n. вярба *f.*
– adj. зроблены зь вярбы
**willowy** [ˈwɪloʊi] adj. гнуткі, стройны
**willy-nilly** [ˌwɪliˈnɪli] adv. 1. хоцькі-няхоцькі, воляй-няволяй, хочаш-няхочаш. 2. без парадку, абы-як: ***Books were piled willy-nilly*** Кнігі былі звален ыя абы-як
**wilt** [wɪlt] v.i. 1. вянуць. 2. траціць сілы, слабнуць. 3. занепадаць духам
**wily** [waɪli] adj. хітры, падманны
**wimble** [ˈwɪmbəl] n. сьверáдзел -дла *m.*
**wimp** [wɪmp] n., Sl. слабахарактарны, бязвольны чалавек, хлюпік -а *m.*
**win** [wɪn] – v.t. **won, winning** 1. выйграваць: ***to win the battle*** выйграць бітву. 2. здабываць: ***to win fame*** здабыць славу; ***to win a prize*** здабыць уз-

нагаро́ду, пры́з. 3. здабыва́ць, заваёўваць (*прыхі́льнасьць*), выклiка́ць (*зацікаўле́ньне*): ***The speaker soon won his audience*** Прамо́ўца ху́тка заваява́ў прыхі́льнасьць слухачо́ў
– n., Informal вы́йгрыш -у *m.*; уда́ча *f.*; перамо́га *f.*
• ***win back*** адыгра́ць, адваява́ць
• ***win over*** пераканаа́ць, схілі́ць на свой бок: ***Mary won her mother over to her side*** Мары́я схілі́ла ма́ці на свой бок

**wince** [wɪns] – v.i. уздры́гваць, мо́ршчыцца
– n. уздры́г -у *m.*; уздрыгне́ньне *n.*

**winch** [wɪntʃ] n. калаўро́т -а *m.*, лябёдка *f.* (*для падыма́ньня гру́зу*)

**wind I** [wɪnd] – n. 1. ве́цер ве́тру *m.* 2. віхо́р ві́хру -ру *m.* 3. Figur. га́зы (*у стра́ўніку, кі́шках*). 4. Mus. a) духавы́ інструмэ́нт. 5. дыха́ньне *n.*: ***to lose one's wind*** задыха́цца. 6. а) пустаме́льства *n.*, балбатня́ *f.* б) пыхлі́васьць *f.*, зазна́йства *n.*
– v.t. 1. ве́трыць, праве́трываць. 2. праню́хваць. 3. задыха́цца, выклiка́ць зады́шку. 4. дава́ць перадыхну́ць: ***They stopped in order to wind the horses*** Яны́ прыпыні́ліся, каб даць ко́ням перадыхну́ць
• ***be out of wind*** задыха́цца, стамі́цца
• ***break wind*** псава́ць паве́тра
• ***down (the) wind*** зь ве́трам, у кіру́нку ве́тру
• ***fair wind*** спадаро́жны ве́цер
• ***get wind of*** даве́дацца, пачу́ць, б) пранюхаць
• ***in the eye*** or ***teeth of the wind*** про́ста супро́ць ве́тру
• ***in the wind*** нешта прадба́чанае, што ма́е ста́цца
• ***on the wind*** па ве́тру
• ***the way the wind blows*** як ве́цер дзьме, у які́м кіру́нку ве́цер паве́е
• ***throw caution to the wind*** быць неасьцяро́жным, дзе́яць неабду́мана
• ***winds,*** pl. духавы́я інструмэ́нты (*ча́стка арке́стру*)

**wind II** [waɪnd] – v., **wound, winding** v.i. 1. ві́цца, абвіва́цца: ***A brook winds through the woods*** Руча́й віе́цца праз лес; ***The vine winds around the pole*** Вінагра́д віе́цца вако́л слупа́. 2. кружы́ць: ***We wound our way through the narrow streets*** Мы кружы́лі па ву́зкіх ву́лках. 3. скру́чвацца: ***The hedgehog winds itself into a ball*** Во́жык скру́чваецца ў клубо́к
– v.t. 1. абвіва́ць, абкру́чваць. 2. мата́ць, абмо́тваць, сука́ць. 3. заво́дзіць: ***to wind a clock*** заве́сьці гадзі́ньнік; ***This clock winds easily*** Гэ́ты гадзі́ньнік лёгка заво́дзіцца. 4. нала́джваць (*музы́чны інструмэ́нт*)
– n. 1. вы́гін -у *m.*; зало́м -у *m.* 2. паваро́т, заваро́т -у *m.* 3. віт|о́к -ка́ *m.*, абаро́т сьпіра́лі
• ***wind down*** а) пастуно́ва згортвацца, спыня́цца. б) распру́жвацца
• ***wind off*** размо́тваць, раскру́чваць
• ***wind up*** а) зако́нчыць, даве́сьці да канца́: ***I am winding up my work*** Я зако́нчваю сваю́ пра́цу. б) напру́жыцца, хваля́вацца: ***Sometimes he gets wound up*** Ча́сам ён ро́біцца нэрво́вы
• ***wind up in*** апыну́цца, ско́нчыць: ***He wound up in jail*** Ён ско́нчыў у турме́

**wind-blown** [ˈwɪndbloʊn] adj. наве́яны, нане́сены ве́трам

**windbreak** [ˈwɪndbreɪk] n. засло́на ад ве́тру

**windbreaker** [ˈwɪndbreɪkər] n. лёгкая сparто́вая ку́ртка, вятро́ўка *f.*

**winded** [ˈwɪndɪd] adj. зады́ханы

**windfall** [ˈwɪndfɔːl] n. 1. не́шта сарва́нае ве́трам. 2. апа́д -у *m.*: ***These apples are windfalls*** Гэ́тыя я́блыкі — апа́дкі. 3. Figur. нечака́ная ўда́ча

**windflower** [ˈwɪndˌflaʊr] n., Bot. курасьлёп -у *m.*, анэмо́на *f.*

**winding** [ˈwaɪndɪŋ] – n. 1. намо́тваньне *n.*; скру́чваньне. 2. зьві́ліна, заві́ліна *f.*; вы́гін -у *m.*; заваро́т -у *m.* 3. скру́т|ак -ка *m.*, сьпіра́ль *f.*
– adj. 1. зьві́лісты, заві́лісты, лучы́сты; пакруча́сты. 2. сьпіра́льны: ***winding stairs*** сьпіра́льныя схо́ды

**wind instrument** духавы́ інструмэ́нт
**windmill** [ˈwɪndmɪl] n. 1. вятра́к ветрака́, млын -а́ *m.* 2. Informal верталёт -а *m.*
**window** [ˈwɪndoʊ] n. 1. акно́ *n.* 2. шы́ба *f.* 3. аке́нца *n.* (*на по́шце, у ба́нку, у канвэ́рце для а́драсу*). 4. вітры́на *f.* 5. аке́нца *n.* (*на экра́не кампу́тара*)
**window dressing** 1. ула́джваньне вітры́наў. 2. Figur. ствары́ньне фальшы́вага ўра́жаньня
**windowpane** [ˈwɪndoʊpeɪn] n. шы́ба, шы́біна *f.*
**window-shop** [ˈwɪndoʊˌʃɑːp] v.i. агляда́ць вітры́ны кра́маў
**window sill** падвако́ньнік -а *m.*, падвако́ньне *n.*
**windpipe** [ˈwɪndpaɪp] n. ды́хальнае го́рла, трахе́я *f.*
**windshield** [ˈwɪndʃiːld] n. ветраво́е, лабаво́е шкло (*у аўтамабі́лі*)
**windshield wiper**, Auto дво́рнік -а *m.*
**windstorm** [ˈwɪndˌstɔːrm] n. віхо́р ві́хру *m.*; віху́ра *f.*
**windward** [ˈwɪndwərd] – adv. супро́ць ве́тру, пад ве́цер
– adj. наве́траны
– n. 1. наве́траны бок. 2. кіру́нак, зь яко́га дзьме ве́цер
**windy** [ˈwɪndi] adj. 1. ве́траны, вятры́сты: ***windy weather*** ве́транае надво́р'е. 2. шматслó ўны, гаваркі́, гаварлі́вы. 3. які́ пу́шыць, выклікáе га́зы
**wine** [waɪn] – n. 1. віно́ *n.* 2. цёмна-чырво́ны, бардо́вы, бурачко́вы ко́лер
– v.t. частава́ць віно́м: ***They were wined and dined*** Іх кармі́лі-паі́лі
**winebibber** [ˈwaɪnˌbɪbər] n. той, хто п'е шмат віна́
**wine cellar** ві́нны склеп
**wineglass** [ˈwaɪnglæs] n. бака́л -а *m.*
**winegrower** [ˈwaɪnˌgroʊər] n. вінаграда́р -а́ *m.*
**wine press** даві́льны прэс
**winery** [ˈwaɪnəri] n., pl. **-eries** вінаро́бны заво́д
**wing** [wɪŋ] – n. 1. крыло́ *n.* 2. крыло́ *n.* (*буды́нка*). 3. крыло́ *n.*, ча́стка, фра́кцыя *f.*: ***the left/right wing of the party*** ле́вае/пра́вае крыло́ па́ртыі. 3. кулі́сы (*у тэа́тры*)
– v.i. 1. акрыля́ць. 2. лёта́ць, узьлята́ць. 3. Figur. падганя́ць, прысьпе́шваць: ***Terror winged his steps*** Жах прысьпе́шваў яго́ныя кро́кі. 4. пара́ніць у крыло́ *або́* руку́: ***The bullet winged the bird but did not kill it*** Ку́ля пара́ніла пту́шку ў крыло́, але не забі́ла яе́
• ***be on (the) wing*** а) ляце́ць. б) быць заўсёды дзе́йным, у ру́ху. в) перабіра́цца. г) ад'яжджа́ць, адлята́ць
• ***take wing*** адлята́ць
• ***under the wing of*** пад чыі́м апяку́нствам
• ***wing its way*** ляце́ць
• ***wings,*** pl. адзна́ка, дава́ная пілёту
**wing case** надкры́льле *n.*, надкры́лы *pl.*
**winged** [ˈwɪŋd] adj. 1. крыла́ты, з кры́ламі. 2. ху́ткі, бо́рзды, жва́вы
**wingless** [ˈwɪŋləs] adj. бяскры́лы
**wingspread** [ˈwɪŋspred] n. разма́х кры́лаў
**wink** [wɪŋk] – v.i. 1. мо́ргаць, мірга́ць. 2. падмі́ргваць. 3. міга́ць, мігаце́ць, мігце́ць
– n. 1. мо́рганьне, падмі́ргваньне *n.* 2. міга́ньне, мігце́ньне, мігаце́ньне *n.* 3. міг -у *m.*: ***in a wink*** мі́гам, во́бмільгам
• ***forty winks***, Informal каро́ткі сон; дрымо́та *f.*
**winker** [ˈwɪŋkər] n. 1. міргу́н -а́ *m.* 2. Informal ве́я, ве́йка *f.* 2. мо́ргаўка *f.*
**winner** [ˈwɪnər] n. перамо́ж|ац -ца *m.*
**winning** [ˈwɪnɪŋ] adj. 1. які́ выйграе́, перамо́жны: ***winning team*** кама́нда, яка́я выйграе́. 2. перамо́жны, прына́дны, прые́мны: ***a winning smile*** прына́дная усьме́шка
• ***winnings*** pl. вы́йгрыш -у *m.*
**winnow** [ˈwɪnoʊ] – v.t. 1. ве́яць. 2. адве́йваць. 3. аддзяля́ць, адсе́йваць: ***winnow truth from falsehood*** аддзялі́ць пра́ўду ад хлусьні́

– n. 1. вéялка *f.* 2. вéяньне збóжжа

**winsome** [ˈwɪnsəm] adj. прывáбны, прыéмны: ***a winsome girl*** прывáбная дзяўчы́на

**winter** [ˈwɪntər] – n. 1. зімá *f.*: ***in winter*** узíмку. 2. Figur. апóшні пэры́яд жыцьця́; час заняпáду, прыгнéчанасьці
– adj. 1. зімóвы. 2. азíмы
– v.i. зімавáць

**wintertime** [ˈwɪntərtaɪm] n. зімóвы час, зімóвая парá

**wintery** [ˈwɪnteri] adj., *гл.* **wintry**

**wintry** [ˈwɪntri] adj. 1. зімóвы: ***a wintry sky*** зімóвае нéба. 2. a) халóдны, марóзны. 3. нявéтлы: ***a wintry smile*** халóдная, нявéтлая ўсьмéшка

**wipe** [waɪp] v.t. 1. сьцірáць: ***to wipe the table*** сьцéрці стол. 2. абцірáць, выцірáць: ***Wipe away your tears*** Вы́тры сьлёзы. 3. зацірáць, змывáць: ***The rain wiped away all the footprints*** Дождж змыў усé сьляды́. 4. працірáць: ***to wipe one's glasses*** працірáць акуля́ры
• ***wipe out*** a) зьнíшчыць, пазабівáць. б) зьнíшчыць, разбуры́ць дашчэ́нту: ***The disease wiped out the entire population*** Хварóба вы́нішчыла ўсё насéльніцтва. в) ануляваць, скасавáць: ***The generous man wiped out all the debts owed him*** Шчóдры чалавéк даравáў усé даўгí сваíм даўжнікóм

**wire** [waɪr] – n. 1. дрот -у *m.* 2. драця́ная сéтка. 3. прóвад -у *m.* 4. тэлеграф -у *m.*, тэлегрáма *f.*: ***He sent a message by wire*** Ён паслáў тэлегрáму
– adj. драцяны́: ***wire netting*** драцянáя сéтка.
– v.t. 1. рабíць правóдку: ***to wire a house for electricity*** правéсьці элéктрыку ў дом. 2. зьвя́зваць дрóтам: ***He wired the two pieces together*** Ён зьвязáў два кавáлкі дрóтам. 3. абгарóджваць дрóтам. 4. Informal пасылáць тэлегрáму
• ***get one's wires crossed*** заблы́тацца
• ***pull wires,*** Informal рабíць уплы́ў

**wire cutter** нажнíцы для рэ́заньня дрóту, шчыпцы́ *pl. only* , кусáчкі *pl. only*

**wire gauge** прылáда для мéраньня дыямэ́тра дрóту, драця́ны калíбар

**wireless** [ˈwaɪrləs] – adj. бяздрóтавы
– n. рáдыё *n.*
– v.t. перадавáць праз рáдыё

**wire service** прэ́савае агéнцтва

**wiretapping** [ˈwaɪrˌtæpɪŋ] n. падслухóўваньне тэлефóнных гýтарак

**wireworm** [ˈwaɪrwɜːrm] n. 1. драця́нік -а *m.* 2. рабáк, глíст -á *m.*

**wiring** [ˈwaɪrɪŋ] n. электры́чная правóдка

**wiry** [ˈwaɪri] adj. 1. драця́ны. 2. жы́лісты; мóцны, дýжы

**wisdom** [ˈwɪzdəm] n. 1. мýдрасьць, развáжнасьць *f.* 2. рóзум -у *m.* 3. вéда, эруды́цыя *f.*

**wise** [waɪz] adj. 1. мýдры, развáжны. 2. разýмны: ***wise advice*** разýмная парáда. 3. зь вялíкімі вéдамі, вучóны: ***to be wise to,*** Sl. быць сьвéдамым *чагó*; быць у кýрсе спрáвы
• ***wise up***, Sl. a) усьвéдаміць, сьця́міць. б) паразумнéць

**wisely** [ˈwaɪzli] adv. мýдра, разýмна; развáжна

**wisecrack** [ˈwaɪzkræk] n., Sl. трáпная заўвáга; дасьцíпны адкáз

**wise guy** [ˈwaɪzgaɪ] n., Sl. усёвéд, разýмнік -а *m.*

**wish** [wɪʃ] – v. 1. хацéць, жадáць. 2. жадáць, зы́чыць: ***I wish you a Happy New Year*** Зы́чу Вам шчасьлíвага Нóвага Гóду. 3. мáрыць
– n. 1. жадáньне *n.* 2. пажадáньне *n.*: ***best wishes*** найлéпшыя пажадáньні. 3. нéшта жадáнае: ***The girl got her wish*** Дзяўчы́нка атрымáла тóе, што янá хацéла. 4. мáра *f.*

**wishbone** [ˈwɪʃboʊn] n. грýдная кóстка (*у птýшак*), вíлка *f.*

**wishful** [ˈwɪʃfəl] adj. пóўны жадáньня, прáгны

**wishful thinking** прымáньне жадáнага за сапрáўднае, самападман -у *m.*

**wishy-washy** [ˈwɪʃiˌwɑːʃi] adj. 1. рэ́дкі, вадзянíсты. 2. няўпэ́ўнены, невыра́з-

ны; слабы́: ***a wishy-washy excuse*** слабо́е апраўда́ньне

**wisp** [wɪsp] n. 1. жмут|о́к, шмат|о́к -ка́ *m.*: ***a wisp of hay*** жмуто́к се́на. 2. мала́я ча́стачка, кры́ха *f.*: ***a wisp of smoke*** малы́ клубо́к ды́му

**wistful** [ˈwɪstfəl] adj. 1. мро́йны. 2. тужлі́вы. 3. журбо́тны, су́мны; марко́тна задуме́нны

**wit** [wɪt] n. 1. ро́зум -у *m.*; дасьці́пнасьць *f.*, до́сьціп -у *m.* 2. ке́млівасьць *f.*: ***People with quick wits learn easily*** Ке́млівым лю́дзям лёгка вучы́цца

• ***be at one's wits' end*** ня ве́даць, што рабі́ць, быць у адча́і, разгу́бленасьці

• ***be out of one's wits with fright*** губля́ць галаву́ ад стра́ху

• ***have*** or ***keep one's wits about one*** а) не разгубі́цца. б) мець ро́зум у галаве́

**witch** [wɪtʃ] – n. 1. ве́дзьма, чараўні́ца *f.* 2. стара́я зла́я жанчы́на. 3. Informal надзвыча́йна прыго́жая дзяўчы́на *або́* жанчы́на

– v.t. 1. чарава́ць, зачаро́ўваць. 2. ачаро́ўваць

**witchcraft** [ˈwɪtʃkræft] n. чараўні́цтва, вядзьма́рства *n.*, ча́ры *pl.*; магі́чная сі́ла

**witch doctor** зна́хар -а *m.*, зна́харка *f.*, шапту́н -а́ *m.*, шапту́ха *f.*

**witchery** [ˈwɪtʃəri] n. 1. ча́ры. 2. Figur. чаро́ўнасьць, прыва́бнасьць *f.*

**witch hunt,** Sl. палява́ньне на ве́дзьмаў

**with** [wɪð] prep. 1. з: ***I agree with you*** Я згаджа́юся з ва́мі; ***a man with initiative*** чалаве́к зь ініцыяты́вай. 2. пры дапамо́зе *чаго́*, чым: ***to cut meat with a knife*** рэ́заць мя́са нажо́м. 3. з *чаго́*: ***We are pleased with it*** Мы задаво́леныя з гэ́тага. 4. у *каго́*: ***Leave the dog with me*** Пакі́нь саба́ку ў мяне́, са мной. 5. ад *чаго́*: ***to shake with cold*** Трэ́сьціся ад хо́ладу; ***to die with thirst*** паміра́ць ад сма́гі. 6. з *кім*, супро́ць *каго́*: ***The English fought with the Germans*** Анге́льцы ваява́лі зь не́мцамі. 7. ня гле́дзячы на *што*: ***With all his weight he was not a strong man*** Нягле́дзячы на ўсю яго́ную вагу́, ён ня быў ду́жым мужчы́нам

• ***be with it,*** Sl. быць у ку́рсе

• ***keep in with*** падтры́мваць знаёмства *або́* сябро́ўства з *кім*

• ***with thanks*** з падзя́кай

**withdraw** [wɪðˈdrɔː] – v.t. **-drew, drawn, -drawing** 1. адыма́ць, прыма́ць, вы́маць: ***He quickly withdrew his hand from the hot stove*** Ён ху́тка адхапі́ў руку́ ад гара́чае плі́ты́. 2. адкліка́ць. 3. выма́ць, забіра́ць: ***He withdrew his savings from the bank*** Ён забра́ў свае́ ашча́днасьці з ба́нку

– v.i. 1. выхо́дзіць: ***She withdrew from the room*** Яна́ вы́йшла з пако́ю. 2. Milit. адступа́ць

**withdrawal** [wɪðˈdrɔːəl] n. 1. адыма́ньне *n.* 2. забра́ньне (*ашча́днасьцяў з ба́нку*). 3. адклі́каньне *n.* 4. адыхо́д, вы́хад -у *m.* 5. Milit. адступле́ньне *n.*

**withdrawn** [wɪðˈdrɔːn] adj. скры́тны, замкнёны (*сам у сабе́*)

**wither** [ˈwɪðər] – v.i. вя́нуць; высыха́ць, пятрэ́ць, марне́ць: ***The grass withered in the hot sun*** Трава́ пятрэ́ла на гара́чым со́нцы

– v.t. 1. высу́шваць: ***Age had withered the old lady's face*** Век вы́сушыў твар старо́й. 2. Figur. спапяля́ць: ***She withered him with a scornful look*** Яна́ спапялі́ла яго́ сваі́м пага́рдлівым по́зіркам

• ***wither away*** адміра́ць, ча́хнуць

**withered** [ˈwɪðərd] adj. вы́сахлы, завя́лы, зача́хлы; змарне́лы

**withhold** [wɪðˈhoʊld] v.t., **withheld, holding** 1. адмаўля́ць: ***to withhold one's consent*** ня даць зго́ды. 2. устры́мваць; уто́йваць. 3. адлі́чваць

**within** [wɪˈðɪn] – prep. 1. у ме́жах, на праця́гу *чаго́*: ***within the man's powers*** у ме́жах людзкі́х сі́лаў; ***within a week*** на праця́гу ты́дня. 2. у сярэ́дзіне, уну́тры *чаго́*

– adv. 1. у сярэ́дзіне, унутры́: ***The house has been painted within and***

***without*** Дом быў пафарбаваны ўсярэдзіне й звонку. 2. у сабе, у душы: ***to keep one's grief within*** трымаць свой боль у сабе

**without** [wɪˈðaʊt] – prep. 1. без: ***I drink tea without sugar*** Я п'ю гарбату бяз цукру. 2. без таго каб: ***She walked past without looking at us*** Яна прайшла, не зірнуўшы на нас; ***not without reason*** не без прычыны
– adv. звонку, знадворку, навонкі: ***The house is clean within and without*** Дом чысты ўнутры і знадворку; ***The idea came from without*** Ідэя прыйшла звонку

**withstand** [wɪðˈstænd] v.i. вытрымваць; трываць; супрацьстаяць

**witless** [ˈwɪtləs] adj. 1. бязглузды; неразумны. 2. бяздумны

**witness** [ˈwɪtnəs] – n. 1. сьведка -i *m.&f.* 2. сьведчаньне *n.,* довад, доказ -у *m.*: ***The man's fingerprints bore witness to his guilt*** Адбіткі пальцаў былі доказам віны чалавека
– v.t. 1. быць сьведкам: ***He witnessed the accident*** Ён быў сьведкам няшчаснага выпадку. 2. сьведчыць

**witticism** [ˈwɪtəˌsɪzəm] n. досьціп -у *m.*

**wittily** [ˈwɪtɪli] adv. дасьціпна

**wittiness** [ˈwɪtɪnəs] n. дасьціпнасьць *f.*

**wittingly** [ˈwɪtɪŋli] adv. сьведама; сумысьля, наўмысна

**witty** [ˈwɪti] adj. дасьціпны: ***a witty remark*** дасьціпная заўвага

**wives** [waɪvz] n., *pl. of* **wife**

**wizard** [ˈwɪzərd] – n. 1. чарадзей -я *m.,* чараўнік -а *m.* 2. Informal знавец -ўца, майстар -ра *m.*
– adj. магічны, чарадзейскі

**wobble** [ˈwɑːbəl] – v.i. 1. хістацца,ківацца (*з боку ў бок*). 2. дрыжэць. 3. хістацца, віхляць (*пра колы*). 4. хістацца, вагацца, віхляць
– n. хістаньне, віхляньне *n.*

**wobbly** [ˈwɑːbli] adj. хісткі

**woe** [woʊ] – n. бяда *f.*, гора *n.*, клопат -у *m.*
– interj. О, гора ты маё!

**woeful** [ˈwoʊfəl] adj. 1. гаротны; сумны, журботны: ***a woeful expression*** гаротны, сумны выраз. 2. жаласны, варты жалю: ***a woeful sight*** жаласнае відовішча. 3. заганны

**woke** [woʊk] v., *p.t. of* **wake**

**wolf** [wʊlf] – n., pl. **wolves** 1. воўк ваўка *m.* 2. Figur. люты, прагавіты чалавек. 3. Sl. бабнік -а *m.*
– v.i. есьці прагна, пажыраць
• ***cry wolf*** падымаць фальшывую трывогу
• ***keep the wolf from the door*** не дапускацца да голаду ці жабрацтва
• ***wolf in sheep's clothing*** воўк у авечай скуры

**wolf dog** n. 1. ваўкарэз -а *m.*, ваўкадаў -ва *m.* 2. помесь сабакі й ваўка

**wolverine** or **wolverene** [ˈwʊlvəriːn] n. 1. расамаха *f.* 2. футра з расамахі

**wolves** [wʊlvz] n., *pl. of* **wolf**

**woman** [ˈwʊmən] n., pl. **women** [ˈwɪmɪn] 1. жанчына, кабета *f.* 2. жонка *f.* 3. каханка *f.* 4. жанчынападобны мужчына, «баба»
• ***woman of the world*** сьвецкая жанчына

**womanhood** [ˈwʊmənhʊd] n. 1. жаноцкасьць *f.* 2. жаночы род, жанчыны

**womanish** [ˈwʊmənɪʃ] adj. а) жаноцкая (*пра дзяўчыну*). б) жаноцкі, жанчынападобны (*пра мужчыну*)

**womanize** [ˈwʊmənaɪz] v.t. 1. рабіць жанчынападобным. 2. Sl. бабнічаць

**womankind** [ˈwʊmənkaɪnd] n. жаночы род, жанчыны

**womanlike** [ˈwʊmənlaɪk] adj., *гл.* **womanly**

**womanly** [ˈwʊmənli] adj. 1. жаноцкі. 2. як жанчына, жанчынападобны

**woman's rights** правы жанчыны

**woman suffrage** права жанчынаў галасаваць

**womb** [wuːm] n., Anat. 1. матка *f.* 2. Figur. лона, улоньне *n.*

**women** [ˈwɪmɪn] n., *pl. of* **woman**

**womenfolk** [ˈwɪmɪnfoʊk] n., pl. жанчыны

**won** [wʌn] v., *p.t. and p.p. of* **win**

**wonder** [ˈwʌndər] – n. 1. дзіва *n.*, цуд -у *m.* 2. зьдзіўленьне *n.*

– v.i. 1. дзівіцца, дзіву давацца: ***I wonder who it was*** Цікава, хто гэта быў; ***I wonder what happened*** Цікава, што сталася. 2. зьдзіўляцца: ***I shouldn't wonder if he wins the prize*** Я не зьдзіўлюся, калі б ён выйграў

• ***do wonders*** тварыць, рабіць цуды

• ***for a wonder*** як ні дзіўна, на дзіва, нейкім цудам: ***You are not late for a wonder*** На дзіва ты не спазьніўся

• ***no wonder*** а) нічога надзвычайнага. б) ня дзіва

**wonderful** [ˈwʌndərfəl] adj. 1. незвычайны, дзівугодны, дзівосны; чароўны, цудоўны: ***The explorer had wonderful adventures*** Дасьледнік перажыў незвычайныя прыгоды. 2. выдатны, надзвычайны

**wonderland** [ˈwʌndərlænd] n. край дзівосаў

**wont** [wɔ:nt] – adj. прызвычаены: ***He was wont to read the paper at breakfast*** Ён прывык чытаць газэту за сьняданьнем

– n. прывычка, звычка *f.*: ***He rose early, as was his wont*** Ён устаў рана, як і было яго звычкай

**won't** [woʊnt] *скарочанае* **will not**

**wonted** [ˈwɔ:ntɪd] adj. прывычны, звычны

**woo** [wu:] v.i. 1. заляцацца, сватацца. 2. дамагацца: ***to woo fame*** гнацца за славай

**wood** [wʊd] – n. 1. дрэва *n.* (*матэрыял*): ***The carpenter brought wood to build a garage*** Цясьляр прывёз дрэва будаваць гараж. 2. драўніна *f.* (*цьвёрдае рэчыва пад карою дрэва*). 3. дровы. 4. лес -у *m.* 5. бочка, бочачка *f.* (*пасудзіна з дрэва*): ***wine drawn from the wood*** віно, налітае з бочкі. 4. Mus. драўляны духавы інструмэнт

– adj. 1. з дрэва, драўляны. 2. лясны: ***wood moss*** лясны мох

– v.t. 1. засаджваць дрэвамі. 2. нарыхтоўваць дровы

• ***knock (on) wood*** каб не ўрачы

• ***out of woods*** (*выбрацца*) зь небясьпекі, бяды

**wood alcohol** драўняны *або* мэтылавы сьпірт

**wood block** 1. калода *f.* (*з дрэва*). 2. дрэварыт -у *m.*

**woodcock** [ˈwʊdkɑ:k] n., Zool. слонка *f.*, вальдшнэп -а *m.*

**woodcraft** [ˈwʊdkræft] n. 1. разьбярства *n.*; дрэваапрацоўка *f.* 2. веданьне лесу

**woodcut** [ˈwʊdkʌt] n. 1. дрэварыт -у *m.*, гравюра на дрэве. 2. адбітак гравюры

**woodcutter** [ˈwʊdkʌtər] n. 1. лесаруб -а *m.* 2. дрывасек -а *m.*

**wooded** [ˈwʊdɪd] adj. лясісты, засаджаны дрэвамі: ***The park is well wooded*** Парк добра засаджаны дрэвамі

**wooden** [ˈwʊdən] adj. 1. драўляны. 2. Figur. зьдзервянелы (*твар, выраз*)

**wood engraving** 1. разьба на дрэве. 2. дрэварыт -у *m.*, гравюра на дрэве

**woodenheaded** [ˌwʊdənˈhedɪd] adj. тупы; дурны

**wooden horse** траянскі конь

**woodenware** [ˈwʊdənwer] n. драўлянае начыньне, посуд

**woodland** [ˈwʊdlənd] – n. лясістая мясцовасьць

– adj. лясны

**woodman** [ˈwʊdmən] n., pl. **-men** 1. лесаруб -а *m.* 2. жыхар лесу, лесавік -а *m.*

**woodpecker** [ˈwʊdˌpekər] n. дзя|цел -тла *m.*

**woodpile** [ˈwʊdpaɪl] n. куча *або* штабэль дроваў

**wood pulp** драўняная мязга

**woodshed** [ˈwʊdʃed] n. дрывотнік -а *m.*, дрывотня *f.*

**woodsman** [ˈwʊdzmən] n., pl. **-men** 1. лесавік -а *m.* 2. лесаруб, дрывасек -а *m.*; лесапрамысло|вец -ўца *m.*

**woodwind** [ˈwʊdwɪnd] n. драўляны музычны інструмэнт

• ***woodwinds*** драўляныя духавыя інструмэнты (*у аркестры*)

**woodwork** ['wʊdwɜ:rk] n. 1. драўля́ныя вы́рабы. 2. сталя́рка *f.*

**woody** ['wʊdi] adj. 1. паро́слы дрэ́вамі, хмызьняко́м; лясі́сты. 2. драўля́ны

**wooer** ['wu:ər] n. кавале́р -а *m.*, залётнік -а *m.*

**woof I** [wʊf] n. 1. утlо́к -ку́ *m.* 2. ткані́на *f.*

**woof II** [wʊf] – n. брэх -у *m.*
– v.i. брaха́ць

**wool** [wʊl] – n. 1. во́ўна *f.* 2. ваўня́ныя ні́ткі. 3. сукно́ *n.* 4. ваўня́ная (суко́нная) адзе́жына
– adj. ваўня́ны; суко́нны
• ***pull the wool over someone's eyes,*** Informal пусьці́ць дым у во́чы, ашука́ць

**woolgathering** ['wʊlˌgæðərɪŋ] n. задуме́ннасьць *f.*, пусты́я мро́і; няўва́жлівасьць, расьсе́янасьць *f.*

**wool(l)en** ['wʊlən] – adj. ваўня́ны, шарсьця́ны; суко́нны
– n. 1. во́ўна *f.* а) ваўня́ная пра́жа. б) ваўня́ная ткані́на, шэрсьць *f.*
• ***woolens*** сукно́ *n.*; суко́нная *або́* ваўня́ная во́пратка

**wool(l)y** ['wʊli] adj. 1. як во́ўна, пушы́сты; бухма́ты: ***woolly clouds*** пушы́стыя абло́кі. 2. ваўні́сты: ***woolly sheep*** ваўні́стая аве́чка. 3. Figur. няя́сны; заблы́таны: ***woolly thinking*** няя́снае ду́маньне

**word** [wɜ:rd] – n. 1. сло́ва *n.* 2. каро́ткая гу́тарка: ***May I have a word with you?*** Магу́ прасі́ць вас на па́ру сло́ваў? 3. каро́ткі вы́ступ. 4. паро́ль -ю *m.* 5. абяца́ньне *n.*: ***The boy kept his word*** Хлапе́ц стрыма́ў сваё сло́ва. 6. ве́стка *f.*, паведамле́ньне *n.*: ***No word has come from her*** Ад яе́ не было́ нія́кае ве́сткі. 7. высло́ўе *n.*
– v.t. 1. выка́зваць сло́вамі: ***Word your ideas clearly*** Выка́звай свае́ ду́мкі я́сна
• ***by word of mouth*** з ву́снаў у ву́сны, ву́сным шля́хам
• ***eat one's words*** забра́ць свае́ сло́вы наза́д
• ***have a word with*** перакі́нуцца (абмяня́цца) сло́вам з *кім*
• ***have the last word*** мець, сказа́ць апо́шняе сло́ва
• ***in a word*** адны́м сло́вам, ко́ратка ка́жучы
• ***take the words out of someone's mouth*** перахапі́ць чые́сьці сло́вы, ду́мку
• ***the last word*** а) канчатко́вае сьве́дчаньне; заклю́чнае сло́ва. б) апо́шняе, найнаве́йшае сло́ва (*наву́кі, тэ́хнікі*)
• ***on*** or ***upon my word*** а) даю́ сло́ва, абяца́ю. б) сапраўды́, няўжо́!
• ***one word led to another*** сло́ва за сло́ва
• ***The Word*** Сло́ва (*другая асо́ба Сьвято́й Тро́йцы*)
• ***word for word*** сло́ва ў сло́ва, дасло́ўна
• ***word of command,*** Milit. кама́нда *f.*
• ***words,*** pl. а) во́стрыя сло́вы *або́* дыску́сія; сва́рка *f.* б) сло́вы да пе́сьні ***to be as good as one's word*** датрымо́ўваць абяца́ньне

**wording** ['wɜ:rdɪŋ] n. фармулёўка, рэда́кцыя *f.*

**wordless** ['wɜ:rdləs] adj. 1. бясслоўны. 2. невыка́зны

**Word of God** Бі́блія *f.*, Сло́ва Бо́жае

**word of hono(u)r** сло́ва го́нару

**word order** пара́дак сло́ваў

**wordy** ['wɜ:rdi] adj. 1. гаваркі́, шматсло́ўны. 2. сло́ўны

**wore** [wɔ:r] v., *p.t. of* **wear**

**work** [wɜ:rk] – n. 1. пра́ца *f.* 2. заня́тlак -ку *m.* 3. твор -у *m.*: ***a work of art*** маста́цкі твор. 4. рабо́та *f.*
– v.i. 1. працава́ць. 2. зарабля́ць: ***work for a living*** зарабля́ць на пражыцьцё. 3. дзе́яць, працава́ць: ***This pump is not working*** Гэ́тая по́мпа не працу́е. 4. намага́цца, напру́жвацца: ***The ship worked to windward*** Вадапла́ў зь ця́жкасьцю ру́хаўся супро́ць ве́тру

– v.t. 1. абрабляць, апрацоўваць: ***He worked his farm with success*** Ён удала абрабляў сваю гаспадарку. 2. дамагацца, змушаць працаваць: ***He works his men long hours*** Ён змушае сваіх работнікаў працаваць даўгія гадзіны. 3. перарабляць: ***He worked a silver dollar into a bracelet*** Са срэбнага даляра ён зрабіў бранзалет

• ***at work*** у дзяяньні, пры працы

• ***good works*** дабрадзейныя ўчынкі

• ***out of work*** беспрацоўны

• ***unit of work***, Phys. адзінка работы

• ***work dough*** мясіць цеста

• ***work in*** уставіць, уводзіць: ***He worked in a few jokes in his speech*** Ён уставіў колькі жартаў у сваю прамову

• ***work off*** а) пазбыцца. б) адпрацаваць

• ***work on*** or ***upon*** а) узьдзейнічць, уплываць на *каго*. б). працаваць над *чым*

• ***work one's way through college*** працаваць у часе навукі ў каледжы

• ***work out*** а) распрацаваць (*плян*). б) разьвязаць, вырашыць (*задачу*); аблічыць (*кошт*). в) ужыць; вычарпаць (*капальню*). г) практыкавацца (*фізычна*), трэніравацца, займацца фізкультурай

• ***work up*** а) распрацоўваць. б) узбуджаць. в) даслужыцца

• ***works***, pl. а) завод -у *m.* б) мэханізм -у *m.*: ***the works of a watch*** мэханізм гадзіньніка. в) збудаваньні (*масты, прыстані, умацаваньні*)

**workable** [ˈwɜːrkəbəl] adj. 1. выканальны, рэальны. 2. прыдатны для ўжытку

**workaday** [ˈwɜːrkədeɪ] adj. штодзённы; будзённы; практычны; звычайны

**workaholic** [ˌwɜːrkəˈhɑːlɪk] n. Informal працавік, працаголік -а, рабацяга *m.*

**workbench** [ˈwɜːrkbentʃ] n. варштат -а *m.*

**workbook** [ˈwɜːrkbʊk] n. 1. кніга практыкаваньняў, дапаможнік -а *m.* 2. кніга інструкцыяў

**workbox** [ˈwɜːrkbɑːks] n. скрынка для інструмэнтаў, прыладаў

**workday** [ˈwɜːrkdeɪ] n. 1.працадзень -ня *m.* 2.працоўны дзень; будзень -ня *m.*

**worker** [ˈwɜːrkər] n. 1. работнік -а *m.*, рабочы -ага *m.*. 2. працаўнік -а *m.*

• ***worker ant (bee)*** рабочая мурашка (пчолка)

**workhorse**, *тс.* **work horse** [ˈwɜːrkhɔːrs] n. 1. рабочы конь. 2. Figur. рабочы конь (*пра чалавека, машыну*)

**working** [ˈwɜːrkɪŋ] – n. 1. дзяяньне *n.* 2. месца распрацоўкі

– adj. 1. які працуе, працоўны: ***the working population*** працоўнае жыхарства

• ***working clothes*** рабочая вопратка

• ***working hours*** гадзіны працы

• ***workings*** а) месца распрацоўкі (*напр. кар'ер*). б) прынцып дзяяньня: ***Do you understand the workings of this machine?*** Ці вы разумееце прынцып дзяяньня гэтае машыны?

**working capital** абаротны капітал

**working day** *гл.* **workday**

**workingman** [ˈwɜːrkɪŋmæn] n., pl. **-men** 1. работнік -а *m.* 2. рабочы -ага *m.*

**workman** [ˈwɜːrkmən] n., pl. **-men** 1. працаўнік, работнік -а *m.* 2. работнік -а *m.* 3. майстар свае справы

**workmanlike** [ˈwɜːrkmənlaɪk] – adj. умела зроблены, майстэрскі

– adv. умела, па-майстроўску

**workmanship** [ˈwɜːrkmənʃɪp] n. майстэрства: ***exquisite workmanship*** тонкае майстэрства

**work of art** 1. мастацкі твор. 2. выдатная работа, выкананьне

**workout** [ˈwɜːrkaʊt] n. 1. фізычнае практыкаваньне. 2. выпрабаваньне *n.*

**workpeople** [ˈwɜːrkˌpiːpəl] n., pl., esp. Brit. працоўны люд

**workroom** [ˈwɜːrkuːm] n. працоўны пакой

**workshop** [ˈwɜːrkʃɑːp] n. 1. майстэрня, майстроўня *f.*, цэх -у *m.* 2. працоўная сэкцыя, сэмінар -у *m.*

• ***a computer workshop*** кампутарны сэмінар

**workwoman** [ˈwɜːrkwʊmən] n., pl. **-women** [ˈwɜːrkwɪmɪn] 1. працаўніца *f.* 2. рабо́тніца *f.*

**world** [wɜːrld] n. 1. сьвет -у *m.*: ***to sail around the world*** плы́сьці вакол сьве́ту. 2. сфэ́ра, галі́на дзе́йнасьці: ***the world of ideas*** сьвет ідэ́яў; ***world of fashion*** сьвет мо́ды; ***the animal (vegetable) world*** жывёльны (расьлі́нны) сьвет. 3. усе́ лю́дзі: ***The world knows it*** Увесь сьвет гэ́та ве́дае; Усе́ лю́дзі гэ́та ве́даюць. 4. сусьве́т -у *m.* 5. ма́са *f.*, мно́ства *n.*: ***The rest did her a world of good*** Адпачы́нак даў ёй ве́льмі шмат

• ***bring into the world*** нарадзі́ць, пусьці́ць на сьвет

• ***come into the world*** нарадзі́цца

• ***for all the world*** : а) ***I wouldn't do it for all the world*** Я не зраблю́ гэ́тага ні за што́ ў сьве́це. б) цэ́ламу сьве́ту

• ***in the world*** а) усю́ды. б) урэ́шце (*для ўзмацне́ньня*): ***What in the world does he mean?*** Што ён, урэ́шце, хо́ча сказа́ць?

• ***not for the world*** нізаво́шта на сьве́це

• ***Old World*** Стары́ сьвет (*Эўро́па, А́зія, А́фрыка*)

• ***on top of the world*** Informal на сёмым не́бе

• ***out of this world*** а) незямны́, незвыча́йны. б) Informal непараўна́льны; выда́тны; цудо́ўны

• ***world without end*** замагі́льны сьвет

**worldliness** [ˈwɜːrldlɪnəs] n. сьве́цкасьць *f.*

**worldling** [ˈwɜːrldlɪŋ] n. чалаве́к захо́плены прые́мнасьцямі гэ́тага сьве́ту

**worldly** [ˈwɜːrldli] adj. 1. зямны́: ***worldly wealth*** зямно́е бага́цьце; ***worldly knowledge*** ве́даньне сьве́ту. 2. сьве́цкі, быва́лы

**worldly-wise** [ˌwɜːrldlɪˈwaɪz] adj. быва́лы, дасьве́дчаны

**world series,** n. бэйсбо́льны чэмпіяна́т (*у ЗША*)

**world war** сусьве́тная вайна́

**world-weary** [ˈwɜːrldˌwɪri] adj. змо́раны жыцьцём

**worldwide** [ˌwɜːrldˈwaɪd] adj. пашы́раны па ўсім сьве́це; сусьве́тны: ***the worldwide threat of atomic radiation*** сусьве́тная пагро́за а́тамнай радыя́цыі

**worm** [wɜːrm] – n. чарвя́к -а́ *m.*

– v.i. 1. паўзьці́ (*як чарвя́к*)

– v.t. 1. выпы́тваць, выве́дваць: ***He tried to worm the secret out of me*** Ён стара́ўся вы́пытаць ад мяне́ таямні́цу. 2. капа́ць чарвяко́ў. 3. выганя́ць глісто́ў

• ***worm into*** по́дступам пралезьці

• ***worm out of*** а) вы́круціцца (*зь бяды́*)

• ***worms,*** pl. рабакі́, глісты́ (*хваро́ба*)

**wormeaten** [ˈwɜːrmˌiːtən] adj. 1. чарві́вы, пато́чаны чарвя́мі: ***wormeaten timbers*** чарвя́мі пато́чаная драўні́на. 2. Figur. зно́шаны; старамо́дны

**wormgear**, Tech. чарвя́чная переда́ча

**wormhole** [ˈwɜːrmhoʊl] n. чарвято́чына *f.*

**worm wheel**, Tech. чарвя́чнае ко́ла

**wormwood** [ˈwɜːrmwʊd] n. палы́н -ý *m.*, чарно́быльl -ю *m.*

**wormy** [ˈwɜːrmi] adj. 1. чарві́вы: ***wormy fruit*** чарві́ўка *f.* 2. пато́чаны чарвя́мі. 3. нікчэ́мны: ***a wormy creature*** нікчэ́мная істо́та

**worn** [wɔːrn] adj. 1. зно́шаны, падзёрты: ***worn rags*** лахманы́. 2. змо́раны, змýчаны: ***a worn face*** змо́раны твар

**worn-out** [ˌwɔːrnˈaʊt] adj. 1. вы́нашаны, зно́шаны (*пра во́пратку*), зьбі́ты, зно́шаны (*пра чараві́кі*). 2. зьнямо́жаны, зьнясі́лены, змардава́ны

**worriless** [ˈwɜːrɪləs] adj. бестурбо́тны

**worrisome** [ˈwɜːrɪsəm] adj. турбо́тны, турбо́тлівы

**worry** [ˈwɜːri] – v.i. **-ried, -rying** непако́іцца, турбава́цца, трыво́жыцца: ***She will worry if we are late*** Яна́ бу́дзе непако́іцца, калі́ мы спо́зьнімся

– v.t. 1. непако́іць, турбава́ць, трыво́жыць: ***The problem worried him*** Склада́ная сі́туа́цыя турбава́ла яго́. 2. дакуча́ць: ***Don't worry me with so***

***many questions*** Не дакучáй мне бяскóнцымі пытáньнямі

– n. 1. непакóл|й -ю *m.*; турбóта, згрызóта *f.*; клóпат -у *m.*: ***Worry kept her awake*** Згрызóты не давáлі ёй спаць

• ***worry along*** нéяк перакíдвацца, перабівáцца

**worse** [wɜ:rs] – adj. 1. гóршы

– adv. гóрай, горш

– n. гóршае *n.*: ***a change (a turn) for the worse*** зьмéна на гóршае; ***Worse cannot happen*** Гóршага ня мóжа быць

• ***from bad to worse*** з агню́ ды ў пóлымя

• ***none the worse*** анí ня гóрай

**worsen** [ˈwɜ:rsən] – v.t. пагóршваць

– v.i. пагóршвацца

**worship** [ˈwɜ:rʃəp] – n. 1. а) культ -у *m.*, пакланéньне *n.*: ***the worship of God*** пакланéньне Бóгу, б) шанавáньне *n.*: ***hero worship*** шанавáньне герóяў. 2. багаслýжба, набажэ́нства. 3. гарáчая лю́басьць

– v., **-shipped** or **-shiped, -shipping** or **-shiping** 1. пакланя́цца Бóгу. 2. удзéльнічаць у набажэ́нстве, малíцца. 3. аддавáць глыбóкую пашáну. 4. багатвары́ць, гóрача кахáць; мóцна даражы́ць

**worshipper** [ˈwɜ:rʃəpər] n. 1. паклóньнік, прыхíльнік -а *m.* 2. малéльнік -а, багамóл|ец -ьца *m.*, багамóлка *f.*; прыхаджáнін -а *m.*, прыхаджáнка *f.*

**worst** [wɜ:rst] – adj. найгóршы

– adv. найгóрш

– n. 1. найгóрш|ы -ага *m.*

– v.t. перамагчы́, узя́ць верх: ***The hero worsted his enemies*** Герóй перамóг сваíх вóрагаў

• ***at worst*** у найгóршым вы́падку

• ***get the worst of it*** пацярпéць найгóрш

• ***if (the) worst comes to (the) worst*** у найгóршым вы́падку

**worsted** [ˈwʊstɪd] – n. 1. грабéнная нíтка *абó* прáжа. 2. сукнó з грабéннай ваўня́най прáжы

– adj. грабéнны

**worth** [wɜ:rθ] – adj. вáрты: ***This play is worth seeing*** Гэ́тую п’éсу вáрта паглядзéць; ***That book is worth $5.00*** Тáя кніга вáртая 5 даляраў; ***He is worth millions*** а) Ён валóдае мільёнамі. б) Ён вáрты мільёнаў

– n. 1. вáртасьць *f.*; дóбрая я́касьць; кары́снасьць, вáжнасьць *f.*: ***We should read books of real worth*** Мы павíнны чытáць кнíгі сапрáўднай вáртасьці. 2. цанá *f.*, кошт -у *m.*: ***Give me a dollar’s worth of sugar*** Дáйце мне на даля́р цýкру

**worthless** [ˈwɜ:rθləs] adj. бязвáртасны; бескары́сны

**worthwhile** [ˌwɜ:rθˈhwaɪl] adj. вáрты зáхадаў, кары́сны: а) ***a worthwhile undertaking*** кары́сны пачы́н. б) ***It’s hardly worthwhile*** Наўрáд ці гэ́та вáрта

**worthy** [ˈwɜ:rði] – adj. 1. гóдны, вáрты: ***a worthy cause*** вáртая намагáньняў спрáва. 2. які́ заслугóўвае

– n. славýтасьць, выдáтнасьць *f.*

• ***worthy of*** які́ заслугóўвае, вáрты *чагó*

• ***worthy of praise*** вáрты пахвалы́

**would** [wʊd] v., *p.t. of* **will**. *ужывáецца*: а) для *абазначэ́ньня бýдучага чáсу*. б) *для абазнáчаньня паўтóрнага дзéяньня ў мінýлым чáсе*: ***The children would play for hours on the beach*** Дзéці, бывáла, гадзíнамі гуля́лі на пля́жы. в) *для вы́казаньня жадáньня*: ***Would (that) I were rich!*** Каб жа я быў багáты! г) *у пытáньнях у вéтлівай фóрме*: ***Would you help us, please?*** Ці не маглí б вы дапамагчы́ нам, калí лáска? д) *для абазначэ́ньня ўмóўнага лáду*: ***If he would only try, he could do it*** Калі б ён тóлькі спрабавáў, ён мог бы гэ́та зрабíць

• ***would rather*** лепш бы: ***I would rather read the book than go to the movies*** Я лепш пачытáю, чым пайдý ў кінó

**would-be** [ˈwʊdbi:] adj. 1. які́ хацéў бы быць. 2. які́ мéўся быць

**wouldn't** [ˈwʊdənt] *скаро́чанае* **would not**

**wound I** [wu:nd] – n. 1. ра́на *f.*: ***to dress a wound*** перавяза́ць ра́ну. 2. пашко́джаньне
– v.t. ра́ніць, Figur. пара́ніць: ***His unkind words wounded her*** Яго́ныя зло́сныя сло́вы пара́нілі ёй душу́

**wound II** [waʊnd] v., *p.t., p.p. of* **wind**

**wove** [woʊv] v., *p.t., p.p. of* **weave**

**woven** [ˈwoʊvən] v., *p.p. of* **weave**

**wow I** [waʊ] n. га́ўканьне *n.*

**wow II** [waʊ] – v.t. захапля́ць; зьдзіўля́ць
– interj. Ах! Аво́хці мне! (*во́кліч захапле́ньня, ра́дасьці, зьдзіўле́ньня*)

**wrack** [ræk] – n. 1. рэ́шткі разбу́ранага, зьні́шчанага; касьця́к разьбітага (*карабля́, аўтамабі́ля*); лом -у *m.* 2. руі́на *f.*; разбурэ́ньне *n.*
– v.t. аддава́ць паку́там, му́чыць: ***body wracked with pain*** спаку́таванае ад бо́лю це́ла

**wraith** [reɪθ] n. здань *f.*; дух -а *m.*

**wrangle** [ˈræŋgəl] – v.i. сварь́іцца, спрача́цца; ва́дзіцца
– n. сва́рка, спрэ́чка; зва́дка *f.*

**wrangler** [ˈræŋglər] n. 1. крыку́н -а́ *m.*, зва́длівы чалаве́к. 2. каўбо́|й -я *m.*

**wrap** [ræp] – v., **wrapped** or **wrapt, wrapping,** v.t. 1. ахіна́ць; атуля́ць, агарта́ць; аху́тваць: ***She wrapped the child in a blanket*** Яна́ ахіну́ла дзіця́ ко́ўдрачкай; ***Wrap a shawl around you*** Накі́нь ху́стку на сябе́. 2. абго́ртваць; закру́чваць, заго́ртваць: ***to wrap with paper*** закруці́ць у папе́ру
– n. накі́дка *f.*, плед -а *m.*
• ***under wraps*** трыма́ны ў таямні́цы, утóены, затóены
• ***wrap up*** а) заху́тацца. б) зако́нчыць, падсумава́ць
• ***wrapped up in*** паглы́блены у *што*

**wrapper** [ˈræpər] n. 1. упако́ўшчык -а *m.* 2. упако́ўка *f.* 3. абго́ртка, бандэро́ль *f.* 4. хала́т -а *m.*

**wrapping** [ˈræpɪŋ] n., абго́ртка *f.*

**wrapt** [ræpt] v., *p.t., p.p. of* **wrap**

**wrath** [ræθ] n. гнеl|ў -ву *m.*; шал -у *m.*, абурэ́ньне *n.*

**wrathful** [ˈræθfəl] adj. гне́ўны; узлава́ны, раззлава́ны

**wreak** [ri:k] v. 1. дава́ць во́лю (*зло́сьці, гне́ву*); спаганя́ць гне́ў: ***The boy wreaked his bad temper on his dog*** Хлапе́ц спагна́ў злосьць на сваі́м саба́ку. 2. по́мсьціць: ***to wreak vengeance upon one's enemy*** адпо́мсьціць сваймý во́рагу; ***to wreak punishment*** пакара́ць

**wreath** [ri:θ] n. вян|о́к -ка́ *m.*

**wreathe** [ri:ð] – v.t. 1. пле́сьці, віць вяно́к. 2. упрыго́жваць вянка́мі. 3. Figur. абвіва́ць: ***Mist wreathed the hills*** Тума́н абві́ў узго́ркі
– v.i. ві́цца: ***The smoke wreathed upward*** Дым ві́ўся ўго́ру

**wreck** [rek] – n. 1. руі́на, разва́ліна *f.* 2. разбурэ́ньне, зьнішчэ́ньне *n.* 3. касьця́к -а́ *m.* (*разбу́ранага*): ***The wrecks of six ships were cast upon the shore*** Касьцякі́ шасьцёх разьбі́тых караблёў былі́ вы́кінутыя на бе́раг
– v.t. 1. разбура́ць; разва́льваць; зьнішча́ць; руйнава́ць. 2. спрычыня́ць ава́рыю, зьнішчэ́ньне; руйнава́ць

**wreckage** [ˈrekɪdʒ] n. 1. абло́мкі, разва́ліны *pl.* 2. зьнішчэ́ньне *n.*

**wrecker** [ˈrekər] n. 1. разбура́льнік -а *m.* 2. разва́льнік -а *m.* (*пра чалаве́ка або́ машы́ну*). 3. цяга́ч, авары́йнік -а *m.*: ***It took three wreckers to clear the road after an accident*** Спатрэ́біліся тры авары́йнікі, каб расчы́сьціць даро́гу пасьля́ ава́рыі

**wrench** [rentʃ] – n. 1. га́ечны ключ. 2. ры|во́к -ўка́ *m.*: ***to give it a sudden wrench*** раптоўна пацягну́ць за што, рэ́зка ірвану́ць, таргану́ць *што*; ***The knob broke off when he gave it a sudden wrench*** Кля́мка адлама́лася, калі́ ён рэ́зка пацягну́ў яе́. 3. зьвіх, вы́віх -у *m.* 4. Figur. туга́, журба́ *f.*; бол|ь -ю *m.*: ***It was a wrench to leave the old home*** Балю́ча было́ пакіда́ць стары́ дом. 5. Figur. перакру́чаньне (*значэ́ньня, сэ́нсу*)

– v.t. 1. выкрýчваць; вырывáць: ***The police officer wrenched the gun out of the man's hand*** Міліцыянт вы́рваў рэвальвэ́р з рук чалавéка. 2. вывíхваць: ***He wrenched his arm*** Ён вы́віхнуў рукý. 3. перакрýчваць (*значэ́ньне, сэнс*)

• ***throw a wrench into*** стáвіць пáлку ў кóла

**wrest** [rest] – v.t. 1. крутанýць, вы́крýціць, вы́рваць сíлаю. 2. Figur. выкрыўляць, скажáць

– n. 1. выкрýчваньне *n.* 2. ключ (*для налáджваньня піянíна, цымбáлаў*)

**wrestle** [ˈresəl] v.i. 1. дýжацца, барóцца. 2. змагáцца: ***We wrestle with the problems*** Мы змагáемся з праблéмамі

**wrestling** [ˈreslɪŋ] n. клясы́чная *абó* вóльная барацьбá, дýжаньне *n.*

**wrestler** [ˈreslər] n. дýжаньнік -а, барлэ́ц -цá *m.*

**wretch** [retʃ] n. 1. бяздóльнік, гарóтнік -а *m.* 2. нягóднік -а *m.*

**wretched** [ˈretʃɪd] adj. 1. бяздóльны, няшчáсны, гарóтны. 2. нікчэ́мны, нягóдны: ***a wretched traitor*** нікчэ́мны здрáднік

**wrick** [rɪk] n. расьцяжэ́ньне *n.*

**wriggle** [rɪgəl] – v.i. 1. круцíцца, тýзацца, ёрзаць: ***Children wriggle when they are restless*** Дзéці, калі неспакóйныя, крýцяцца, тýзаюцца. 2. паўзьцí, выгінáючыся (*як чарвяк, вужáка*). 3. Figur. выкрýчвацца: ***Some people can wriggle out of any difficulty*** Некатóрыя людзі патрапляюць вы́круціцца з усякага цяжкóга станóвішча

– n. вы́крутка *f.*, вы́крут -у *m.*

**wriggler** [ˈrɪglər] n. 1. хітрýн -á *m.* 2. ярзýн -á *m.* 3. лярва камарá

**wright** [raɪt] n. *ужываéцца ў складáных слóвах - пра тагó, хто рóбіць нéшта*: ***a wheelwright*** калясьнíк калесьнікá *m.*; ***a playwright*** драматýрг -а *m.*

**wring** [rɪŋ] – v.t. **wrung, wringing** 1. выкрýчваць: ***to wring clothes*** выкрýчваць бялíзну. 2. скрýчваць, ламáць. 3. выцягваць: ***The old beggar could wring money from anyone by his sad story*** Стары́ жабрáк патрапляў вы́цягнуць грóшы ад кóжнага сваёй сýмнай гістóрыяй. 4. узбуджáць, выклікáць боль, спагáду: ***Their poverty wrung his heart*** Іхная галéча бóлем сьцíснула ямý сэ́рца

– n. выкрýчваньне, выціскáньне *n.*

• ***wring one's hands*** а) ламáць рýкі (*ад рóспачы, гóра*). б) мóцна паціскáць: ***He wrung his old friend's hand*** Ён мóцна пацíснуў рукý сваймý старóму сябру

• ***wring out*** выкрýчваць

**wringer** [ˈrɪŋər] n. машы́на для выкрýчваньня бялíзны; выціскáч -чá *m.*

**wrinkle** [ˈrɪŋkəl] – n. 1. змóршчына, маршчы́на *f.* 2. маршчы́на, склáдка *f.* (*на вóпратцы*)

– v.t. 1. мóршчыць: ***He wrinkled his forehead*** Ён змóршчыў лоб. 2. пакамячыць

– v.i. 1. мóршчыцца, мяцца: ***This material wrinkles*** Гэ́тая тканíна мнéцца. 2. маршчы́ніцца (*пра скýру*)

**wrinkly** [ˈrɪŋkli] adj. а) змóршчаны; маршчы́ністы. б) памóршчаны, памяты

**wrist** [rɪst] n. запясьце *n.*

**wristband** [ˈrɪstbænd] n. 1. манжэ́та *f.* 2. бранзалéт -а *m.*; рамéньчык -а *m.* (*да гадзíньніка*)

**wristlet** [ˈrɪstlət] n. бранзалéтка *f.*

**wrist watch** ручны́ гадзíньнік

**writ** [rɪt] n. 1. пісáньне, пісьмó *n.*: ***The Bible is Holy Writ*** Бíблія — гэ́та Сьвятóе пісьмó. 2. Law прадпісáньне *n.*, павéстка *f.*

**write** [raɪt] – v., **wrote, written, writing** 1. пісáць: ***He learned to write*** Ён навучы́ўся пісáць; ***Her ambition was to write*** Ейным жадáньнем былó пісáць (быць пісьмéньніцай). 2. пісáць лісты́: ***He writes to her every week*** Ён пíша да яé кóжны ты́дзень

– v.t. пісáць, выпíсваць: ***to write a cheque*** вы́пісаць чэк; ***Write your name and address*** Напішы́ сваё прó-

зьвішча і áдрас. 2. запíсваць: ***She writes all that happens*** Янá запíсвае ўсё, што здарáецца. 3. быць відавóчным: ***Fear was written on his face*** Страх быў відзён на ягóным твáры
• ***write down*** а) запíсваць. б) зьніжáць вáртасьць
• ***write off*** а) адклікáць. б) скасавáць, сьпісáць
• ***write out*** а) вы́пісаць. б) напісáць пóўнымі слóвамі. в) вы́пісацца, вычарпацца: ***The writer had written himself out*** Пісьмéньнік вы́пісаўся
• ***write up*** падрабя́зна напісáць

**writer** [ˈraɪtər] n. пісьмéньнік -а *m.*

**writhe** [raɪð] v.i., **writhed, writhed** or **writhen** [ˈrɪðən] 1. кýрчыцца (*ад бóлю*). 2. цярпéць (*ад абрáзы, сóраму*)

**writing** [ˈraɪtɪŋ] – n. 1. пісáньне *n.* 2. пісьмóвая фóрма: ***to put in writing*** напісáць. 3. пóчырк -у *m.* 4. напíсанае *n.*
– adj. пісьмóвы: ***writing paper*** папéра для пісáньня
• ***writing on the wall*** знак, перасьцярóга

**writing desk** пісьмóвы стол

**written** [ˈrɪtən] v., *p.p. of* **write** пíсаны, напíсаны

**wrong** [rɔːŋ] – adj. 1. няпрáвільны, памылкóвы. 2. неадпавéдны: ***at the wrong time*** у неадпавéдны час. 3. не ў парáдку, няспрáўны: ***Something is wrong with the car*** З áўтам нéшта не ў парáдку. 4. лéвы, адварóтны (*бок*): ***wrong side*** лéвы, адварóтны бок, спод, пады́спад
– adv. няпрáвільна, памылкóва
– n. 1. няпрáвільнасьць, памылкóвасьць *f.*, зло *n.*: ***Two wrongs do not make a right*** Злом не папрáвіш зла. 2. несправядлíвасьць, кры́ўда *f.*
– v.t. 1. кры́ўдзіць: ***He forgave those who had wronged him*** Ён прабáчыў тым, хто ягó кры́ўдзіў. 2. несправядлíва ганьбавáць
• ***be in the wrong*** памыля́цца
• ***go wrong*** а) ня вы́йсьці, як трэ́ба; ня ўдáцца: ***Everything went wrong*** Усё пайшлó ня так. б) зрабíць памы́лку: ***He went wrong in buying this property*** Ён зрабíў памы́лку, купíўшы гэ́тую маёмасьць. в) стáцца нядóбрым

**wrongdoer** [ˈrɔːŋˌduːər] n. кры́ўдзíцел|ь -я *m.*; правапарушáльнік -а *m.*

**wrongdoing** [ˈrɔːŋˌduːɪŋ] n. 1. парушэ́ньне *n.* (*закóну, парáдку*); дрэ́нны ўчы́нак. 2. кры́ўджаньне *n.*

**wrongful** [ˈrɔːŋfəl] adj. 1. несправядлíвы; кры́ўдны. 2. неззакóнны

**wrongheaded** or **wrong-headed** [ˌrɔːŋˈhedɪd] adj. упáрты (*у сваíх памы́лках*), тупалóбы

**wrote** [roʊt] v., *p.t. of* **write**

**wroth** [rɔːθ] adj. разгнéваны

**wrought** [rɔːt] – v., *p.t., p.p. of* **work**
– adj. 1. зрóблены. 2. кóваны, кавáны

**wrought iron** кавáнае жалéза

**wrought-up** [ˌrɔːtˈʌp] adj. усхвалявáны; узбýджаны

**wrung** [rʌŋ] v., *p.t., p.p. of* **wring**

**wry** [raɪ] adj. 1. крывы́; перакры́ўлены, перакóшаны, скры́ўлены: ***She made a wry face to show her disgust*** Янá скрывíлася ад пачуцьця́ агíды. 2. перакрýчаны, скажóны (*пра слóвы, дýмкі*)

**wryneck** [ˈraɪnek] n. 1. Med. крывашы́я *f.* 2. круцігалóўка *f.* (*птýшка*)

**www** [ˌdʌbəljuːˌdʌbəljuːˈdʌbəljuː] (World Wide Web) сусьвéтнае сéціва

# X

**X, x** [eks] n., **X's, x's** 1. *два́ццаць чацьве́ртая лі́тара анге́льскага альфабэ́ту.* 2. Math. ікс (*невядо́мае ў раўна́ньнях*)

**xanthous** [ˈzænθəs] adj. 1. жо́ўты. 2. ры́жы. 3. жаўтаску́ры

**xenon** [ˈzi:nɑ:n] n. Chem. ксэно́н -у *m.*

**xerographic** [ˌzɪrəˈgræfɪk] adj. ксэрагра-фі́чны

**xerography** [zəˈrɑ:grəfi] n. ксэрагра́фія *f.*

**xerophilous** [zɪˈrɑ:fɪləs] adj. сухалюбі́вы

**xerophyte** [ˈzɪrəfaɪt] n. сухалюбі́вая расьлі́на (*як ка́ктус*)

**xerosis** [zɪˈroʊsɪs] n. ксэро́з -у *m.* (*ненарма́льная су́хасьць ску́ры, вачэ́й*)

**Xerox** [ˈzɪrɑ:ks] n. ксэ́ракс -а *m.*, ксэрако́пія *f.*

**xerox** [ˈzɪrɑ:ks] v.t. ксэракапіява́ць

**Xmas** [ˈkrɪsməs] n., Informal **Christmas** Каля́ды *pl. only*

**xerophilous** [zɪˈrɑ:fɪləs] adj. сухалюбі́вы

**X-rated** [ˈeksˌreɪtəd] adj. 1. дазво́лены то́лькі для даро́слых (*фі́льм*). 2. Informal a) парнаграфі́чны. б) бру́дны (*мара́льна*)

**X ray** [ˈeksreɪ] – v. прасьве́чваць, рабі́ць здымкі *або́* лячы́ць рэнтге́наўскімі про́мнямі
– adj. рэнтге́наўскі

**xylograph** [ˈzaɪləgræf] n. дрэвары́т -у *m.*

**xylography** [zaɪˈlɑ:grəfi] n. ксылягра́фія *f.*, дрэ́вары́цтва *n.*

**xylophone** [ˈzaɪləfoʊn] n. ксыляфо́н -а *m.*

